БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ



# БЕЛАРУСКАЯ МОВА



## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

**Пад рэдакцыяй доктара філалагічных навук, прафесара А. Я. МІХНЕВІЧА**

**МІНСК**
**«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»**
**імя ПЕТРУСЯ БРОЎКІ,**
**1994**

ББК 81.2Бя2
Б 43
УДК 808.26

**НАВУКОВЫЯ КАНСУЛЬТАНТЫ:**

М. В. АБАБУРКА, А. С. АКСАМІТАЎ, Л. А. АНТАНЮК, Т. П. БАНДАРЭНКА, М. В. БІРЫЛА, Э. Д. БЛІНАВА, М. Г. БУЛАХАЎ, А. М. БУЛЫКА, Л. І. БУРАК, Л. Ц. ВЫГОННАЯ, Н. В. ГАЎРОШ, І. К. ГЕРМАНОВІЧ, Л. М. ГРЫГОР'ЕВА, М. Ф. ГУЛІЦКІ, З. П. ДАНІЛЬЧЫК, М. Ц. КАВАЛЁВА, А. А. КАЎРУС, У. М. КОНАН, І. І. КРАМКО, В. П. КРАСНЕЙ, А. А. КРЫВІЦКІ, М. Н. КРЫЎКО, В. П. ЛЕМЦЮГОВА, А. А. ЛУКАШАНЕЦ, І. І. ЛУЧЫЦ-ФЕДАРЭЦ, Г. М. МАЛАЖАЙ, В. У. МАРТЫНАЎ, П. А. МІХАЙЛАЎ, А. І. НАРКЕВІЧ, Дз. Дз. ПАЎЛАВЕЦ, М. Р. ПРЫГОДЗІЧ, В. І. РАГАЎЦОЎ, У. М. СВЯЖЫНСКІ, А. А. СТАНКЕВІЧ, Л. І. СЯМЕШКА, Т. І. ТАМАШЭВІЧ, Т. М. ТРЫПУЦІНА, Г. А. ЦЫХУН, І. Р. ШКРАБА, П. П. ШУБА, В. К. ШЧЭРБІН, А. К. ЮРЭВІЧ, А. І. ЯНОВІЧ, М. С. ЯЎНЕВІЧ, І. Я. ЯШКІН.

Б $\frac{8080260000-020}{М 318(03)-94}$ 1—94

ISBN 5-85700-126-9

## СЛОВА ДА ЧЫТАЧА



Энцыклапедыя беларускай мовы — першае выданне такога тыпу ў гісторыі нацыянальнай культуры. Яна створана вялікім калектывам навукоўцаў Беларусі — нашых сучаснікаў. Але кніга гэта не стала б явай, калі б не было эстафеты пакаленняў, што жывілі і аберагалі нашу мову, што некалі закладалі падмуркі і будавалі ў нялёгкай працы гмах нашага пісьменства, што на працягу стагоддзяў радок за радком запаўнялі старонкі летапісу беларускай філалагічнай навукі. Усе яны — нашы далёкія продкі і нядаўнія папярэднікі — пачэсныя аўтары моўнай энцыклапедыі, якая — вельмі хацелася б гэтага — стане сціплым помнікам іхнім надзеям, любові і намаганням. Высілкі іх не зніклі марна. Яны і сёння наталяюць прагу пазнання, сілкуюць тых, хто з родным словам лучыць лёс народа, яго духоўны росквіт, яго будучыню.

Энцыклапедыя беларускай мовы выдаецца ў час, калі нарэшце сталі блізкія да здзяйснення спрадвечныя мары народа аб нацыянальнай незалежнасці, аб доўгачаканай разняволенасці духоўнага жыцця, аб адкрытасці ўсім вятрам цывілізаванага свету. Сёння радзіма чакае ад кожнага грамадзянскай сталасці, якая не ў апошняй ступені складаецца з яснага, самастойнага, глыбокага ўсведамлення плёну і страт уласнай гісторыі і сутнасці дня сённяшняга. А яны ў сваю чаргу непарыўна паяднаны з лёсам роднага слова, з яго здольнасцю несці святло мінулых стагоддзяў, назапашваць і адлюстроўваць благое і добрае, абуджаць і яднаць людзей, служыць шчытом і мячом вершніку ў яго сённяшняй барацьбе за суверэннасць і адраджэнне Бацькаўшчыны, заставацца чыстай і магутнай крыніцай самаразвіцця беларускай нацыянальнай культуры.

Энцыклапедыя беларускай мовы — частка энцыклапедыі беларусазнаўства, якая ствараецца і яшчэ будзе ствараца археолагамі і этнографамі, фалькларыстамі і гісторыкамі, літаратура- і мастацтвазнаўцамі. Таму ў ёй падаецца нямала звестак з беларусазнаўчага моўна-культурнага (ці мовазнаўча-культуралагічнага) сумежжа. Гэта мае і гістарычныя прычыны, бо цяжка знайсці ў мінулым прыклад, калі б адукаваны чалавек, разважаючы пра мову і нават пішучы яе граматыку, абмежаваўся толькі гэтай тэмай. Ёсць вытлумачэнне і таму, што ў гэту кнігу пра мову ўключана інфармацыя аб навуковых дасягненнях і проста жыццёвых праявах шматграннага быцця беларусаў: мова этнасу, мова нацыі, мова народа была і заўсёды застанецца пульсуючым сэрцам у найскладанейшым арганізме чалавечых зносін, якімі б новымі сродкамі набыцця і перадачы інфармацыі гэтыя зносіны ні ўзбагаціліся. Таму ў Энцыклапедыі так шмат месца адведзена матэрыялам пра лёс людзей, кніг, рукапісаў, аналізу гістарычных падзей, моўных помнікаў, старадаўніх летапісаў. Таму не толькі канстатуецца здзейсненае, але і гаво-

рыцца пра нявырашаныя праблемы, пра пошук новых шляхоў у развіцці мовазнаўчай навукі.

Мова наша — не адна ў свеце. Тысячамі ніцей — праз гук, слова, сказ, тэкст, стыль, твор, асобу, край і саму зямлю — спалучана яна з жывымі і мёртвымі мовамі іншых народаў. І таму расказ пра беларускую мову не можа не быць адначасова і аповесцю пра далёкія і блізкія нам мовы і культуры — ад старажытнагрэчаскай да маладой македонскай. Моўныя сувязі і культурныя дачыненні беларусаў складаюць арганічную плынь у патоку энцыклапедычнай інфармацыі.

У кантэксце гістарычнага развіцця і сучаснага функцыяніравання мовы ў Энцыклапедыі няцяжка вылучыць і чыста лінгвістычны пласт інфармацыі — апісанне ладу сучаснай беларускай мовы: фанетыкі, граматычных з'яў, лексікі і фразеалогіі. Не падмяняючы акадэмічных граматык або універсітэцкіх курсаў, Энцыклапедыя змяшчае дастаткова падрабязную характарыстыку катэгорый і законаў функцыяніравання літаратурнай мовы, а таксама разнастайныя звесткі аб мове народна-гутарковай у яе дыялектнай разгалінаванасці, мове выдатных беларускіх паэтаў і празаікаў. Разглядаецца і праблематыка культуры вуснага і пісьмовага маўлення, станаўлення і пашырэння літаратурных норм у галіне правапісу, стылістыкі, вымаўлення.

Агульны прынцып, на які абапіралася рэдакцыя пры падрыхтоўцы Энцыклапедыі,— узбуйненне артыкулаў, каб пазбегнуць раздраблення матэрыялу, уласцівага многім тэрміналагічным выданням. Загаловачнымі тэрмінамі даюцца родавыя паняцці, а відавыя ўключаюцца ў адпаведныя агульныя артыкулы, тлумачацца там і падаюцца ў тэрміналагічным паказальніку.

Аўтарскі калектыў і рэдактары Энцыклапедыі адрасуюць сваю працу ўсім, хто цікавіцца жывым беларускім словам, яго гістарычным лёсам, шляхамі станаўлення нацыянальнага пісьменства, праблемамі лінгвістыкі і беларусазнаўства, дасягненнямі беларускай філалогіі, людзьмі, для якіх мова стала жыццёвым клопатам, аб'ектам рупнай прафесійнай працы. Але найперш чытачом гэтай кнігі яны хацелі б бачыць беларускага хлопца і беларускую дзяўчыну, якім наканавана ствараць новую, дэмакратычную, адукаваную Беларусь і якія закліканы несці ў свет цэлы беларускае слова — жывую душу свайго народа.

Энцыклапедыя — не падрахунак і не падручнік. Яна знак і вынік грамадскага ўсведамлення таго, што за плячыма — шлях, але й наперадзе дарога. Дарога пазнання мовы. Дарога яе захавання, удасканалення і пашырэння.

*А. Я. Міхневіч.*

Устаў II ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

Францішак Багушэвіч



***А*** *— першая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай* ѧ *(«аз»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай* Δ *(«альфа»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала галосны гук* а *ў пачатку слоў і пасля мяккіх зычных* (атласъ, мята — *«м'ата»). У сувязі з тым, што традыцыйна-этымалагічны правапіс не дапускаў адлюстравання акання* (вода, дарога), *ужывалася радзей, чым зараз. Мела таксама лічбавае значэнне «адзін», з дадатковымі значкамі* ҂а *— 1000,* а⃝ *— 10 000,* а҈ *— 100 000,* а҉ *— 1 000 000. У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скарапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваецца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў было яшчэ непаслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае нелабіялізаваны галосны гук* а *сярэдняга рада ніжняга пад'ёму ў пачатку слоў, пасля цвёрдых зычных і пасля галосных* а, у, э (акно, вада, заараць — *«заарац'»*, гуаш, тэатр). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў выразе* Ад а да я *(ад пачатку да канца, поўнасцю, цалкам), у афіцыйных абрэвіятурах (ААН, АТС). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «першы» (група «А»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (дом № 12а). А. М. Булыка.*

## АБІХТ РУДОЛЬФ

Нямецкі філолаг-славіст, адзін з першых даследчыкаў і папулярызатараў беларускай культуры ў Германіі. Р. Абіхт нарадзіўся 9 жніўня 1850 г. ў г. Намыслаў у Сілезіі. Вучыўся ў Берліне, Гале, Вроцлаве. З 1900 г. прафесар славянскай філалогіі Вроцлаўскага (тады Брэслаўскага) універсітэта, выкладчык рускай і польскай моў. Памёр Р. Абіхт 12 лютага 1921 г. ў Вроцлаве.

Р. Абіхт — аўтар дапаможнікаў «Важнейшыя цяжкасці рускай мовы: Даведнік для ўсіх, хто вывучае рускую мову» (Лейпцыг, Вена, 1897), «Паказальнік крыніц Супрасльскага рукапісу» (1893—98). Высокім навуковым узроўнем вызначаюцца яго работы «Слова пра паход Ігаравы» (1895, з перакладам тэксту помніка), «Паўднёваруская песня пра Ігара і яе сувязі з паўночнагерманскім эпасам» (1906), дзе параўнальны аналіз «Слова» і старажытнанямецкіх аналагаў зроблены ў шырокім філалагічным аспекце (закраналіся пытанні і славянскіх моў). Р. Абіхт першы замежны вучоны, які наладзіў сувязі (1916) з прадстаўнікамі беларускай культуры І. і А. Луцкевічамі, В. Ластоўскім, Я. Станкевічам. У беларускай газеце «Гоман» 10 красавіка 1917 г. ён змясціў артыкул «Калі пісан «Тарас на Парнасе». Беларускія матэрыялы і пераклады друкаваў у газетах «Deutschland» («Германія»), «Wilnaerer Zeitung» («Віленская газета»), «Zeitung der X. Armee» («Газета X арміі») і яе дадатку «Beobachter» («Наглядальнік»), дзе змясціў 5 артыкулаў «Са старажытнай і новай гісторыі Беларусі» (5—29 верасня 1918). Пры яго актыўным удзеле выдадзены зборнік «Беларусь» (Берлін, 1919) з раздзеламі па апісанні геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі, у якім змешчаны пераклады Р. Абіхта на нямецкую мову вершаў Я. Купалы «А хто там ідзе?» (пад назвай «Беларуская нацыянальная песня», надрукаваны з нотамі Л. Рагоўскага) і «Роднае слова» («Пад навалай крыўдаў многія сталецці»), апавяданне Я. Коласа «Бунт», песня Я. Баршчэўскага «А чым твая, дзеванька, галоўка занята?», беларускія казкі і песні. Працаваў над гісторыяй беларускай літаратуры.

Абіхт не толькі вывучаў і прапагандаваў адраджэнне беларускага пісьменства, але і садзейнічаў яму. На 66-м годзе жыцця (у 1916 г.) ён заняўся вывучэннем беларускай мовы, неўзабаве авалодаў ёю і пачаў выкладаць яе ў Брэслаўскім універсітэце. Ён стаў першым замежным вучоным, які чытаў універсітэцкі курс беларускай мовы. У 1917—18 гг. ён выкладаў яе і ў Свіслацкай семінарыі для беларускіх настаўнікаў. У 1918 г. ў Брэславе выдаў у сааўтарстве з Я. Станкевічам невялікі лемантар-дапаможнік «Prosty sposab stacca ŭ karotkim časе hramatnym» («Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным»), дзе спрабаваў сістэматызаваць прынцыпы фанетыкі, правапісу і пунктуацыі беларускай літаратурнай мовы. Гэта была адна з першых спроб стварэння беларускай граматыкі. Восенню 1921 г. Абіхт меў намер выдаць граматыку беларускай мовы. У параўнанні з «Беларускай граматыкай для школ» Б. Тарашкевіча (1918) праца Р. Абіхта не зрабіла істотнага ўплыву на фарміраванне беларускай мовы, хоць прычынілася да замацавання ў ёй паасобных тэрмінаў (галосныя, зычныя і інш.). Гэтае выданне даволі крытычна ацаніў Я. Ф. Карскі. У артыкуле «Беларуская філалогія за апошнія дзесяць гадоў» (1925) пра кніжку Р. Абіхта гаворыцца, што ў ёй усе «спрашчэнні» арфаграфіі скіраваны толькі на ўвядзенне лацінскага шрыфту без вялікай літары з абазначэннем палаталізаваных зычных праз графічныя знакі — ад чаго «алфавіт павялічыўся на 45 літар». Такія нованўвядзенні не сустрэлі адабрэння беларускага філолага. Са свайго боку Абіхт лічыў, што выкарыстанне лацінскага алфавіта ў беларускім правапісе аблегчыць еўрапейцам знаёмства з беларускай культурай і, у сваю чаргу, паслужыць хутчэйшаму далучэнню яе да агульнаеўрапейскага працэсу.

*Літ.:* *Луцкевіч А.* Праф. Рудольф Абіхт: (Жалобны ўспамін) // Наша думка (Вільня). 1921. 1 ліп. *У. Л. Сакалоўскі.*

## АБРЭВІЯТУРЫ

«Словам цесна, а думкам просторна»,— гаворыць народная мудрасць пра тых, хто ўмее свае думкі выказваць дакладна, паслядоўна і сцісла, без лішніх слоў. Разам з тым гэта выслоўе адлюстроўвае і агульны прынцып любой мэтазгоднай дзейнасці чалавека — прынцып эканоміі, які абазначае імкненне дасягнуць найбольшых і найлепшых вынікаў з мінімальнымі фізічнымі, матэрыяльнымі і інш. затратамі, з найбольшай эканоміяй часу. У моўнай дзейнасці чалавека прынцып эканоміі найбольш выразна праяўляецца ў такім спосабе словаўтварэння назоўнікаў, як абрэвіяцыя. Тэрмін «абрэвіяцыя» (ад лацінскага abbrevio скарачаю) абазначае працэс утварэння назоўнікаў шляхам спалучэння некалькіх слоў, якія ўваходзяць у новае слова часткамі, у скарочаным выглядзе. Такія словы называюцца абрэвіятурамі або складанаскарочанымі словамі. Абрэвіяцыя можа разглядацца як разнавіднасць словаскладання. Напрыклад: *БДУ* (Беларускі дзяржаўны універсітэт), *загс* (запіс актаў грамадзянскага стану), *нэп* (новая эканамічная палітыка).

У беларускай мове існуе некалькі разнавіднасцей абрэвіятур. 1) Гукавыя абрэвіятуры, якія ўтвораны з пачатковых гукаў слоў, што ўваходзяць у склад утваральнага словаспалучэння: *рана́* — **р**аённы **а**ддзел **на**роднай **а**дукацыі; *ААН* — **А**рганізацыя **А**б'яднаных **Н**ацый; *ЦУМ* — **Ц**энтральны **у**ніверсальны **м**агазін. 2) Літарныя абрэвіятуры, што складаюцца з назваў пачатковых літар слоў: *РБ* (чытаецца *эрбэ*) — **Р**эспубліка **Б**еларусь; *ВНУ* (чытаецца *вэнэу*) — **в**ышэйшая **н**авучальная **ў**станова; *МЖК (эмжэка)* — **м**аладзёжны **ж**ыллёвы **к**омплекс. 3) Абрэвіятуры, утвораныя з пачатковых частак некалькіх слоў: *спецкор* — спецыяльны карэспандэнт; *камандарм* — камандуючы арміяй. 4) Абрэвіятуры, у склад якіх уваходзяць усечаная частка першага слова ўтваральнага словазлучэння і пачатковыя гукі астатніх слоў словаспалучэння: *БелАЗ* — Беларускі аўтамабільны завод; *гарСЭС* — гарадская санітарна-эпідэміялагічная станцыя; 5) Абрэвіятуры, утвораныя з усечаных частак (або складоў) першага слова словаспалучэння і пачатковых літар іншых: *педВНУ* — педагагічная вышэйшая навучальная ўстанова (чытаецца *педвэнэу*). 6) Абрэвіятуры, у склад якіх уваходзяць усечаная частка першага слова і цэлае слова: *дзяржзаказ* — дзяржаўны заказ; *санпост* — санітарны пост і інш. Сярод абрэвіятур гэтага тыпу ў асобную падгрупу выдзяляюць адзінкі, другую частку якіх складаюць формы слова ў пэўным склоне. Напрыклад: *начштаба* — начальнік штаба; *камроты* — камандзір роты. 7) Абрэвіятуры, якія складаюцца з пачатковай часткі першага слова і канцавой часткі другога: *мапед* — матацыкл + веласіпед; *рацыя* — радыё + станцыя. 8) Абрэвіятуры, што ўзніклі з пачатковай часткі першага слова і пачатковай і канцавой — другога: *эсмінец* — эскадраны мінаносец; *ваенкамат* — ваенны камісарыят.

Абрэвіяцыя ў сучаснай беларускай літаратурнай мове з'яўляецца актыўным спосабам словаўтварэння назоўнікаў. Ён развіўся ў 20-я гады пад уплывам рускай мовы. Абрэвіятурамі абазначаліся новыя з'явы і паняцці: *камбед, калгас, саўгас, камсамол, СССР, БССР, нэп, ЦВК* (Цэнтральны Выканаўчы Камітэт), *рэўком* і пад. Значнае месца сярод іх займаюць назвы дзяржаўных аб'яднанняў, грамадскіх арганізацый, устаноў і пад. Таму многія абрэвіятуры вельмі недаўгавечныя і часта пераходзяць у разрад гістарызмаў, напрыклад: *БССР, нэп, ЦВК, ГДР* і інш. Пад уплывам абрэвіяцыі ў беларускай мове (асабліва ў размоўным стылі) назіраецца працэс утварэння скарочаных (усечаных) слоў тыпу *нам* (намеснік), *пам* (памочнік), *маг* (магнітафон).

Паводле паходжання ўсе абрэвіятуры ў беларускай мове дзеляцца на тры групы. 1) Уласна беларускія абрэвіятуры. Усе яны ўтвораны з беларускіх намінатыўных словазлучэнняў. Напрыклад: *ВНУ, БелТА.* 2) Запазычаныя абрэвіятуры. Галоўным чынам гэта скарочаныя назвы розных арганізацый, устаноў і г. д. Напрыклад, запазычанымі з рускай мовы з'яўляюцца абрэвіятуры *МХАТ* — Маскоўскі Мастацкі акадэмічны тэатр (рус. Московский Художественный академический театр), *лаўсан* (рус. лавсан — лаборатория высокомолекулярных соединений Академии наук). У беларускай мове сустракаюцца абрэвіятуры-запазычанні з іншых моў, напрыклад, англійскай: *ЮНЕСКА* — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (англ. UNESCO — **U**nited **N**ations **E**ducational **S**cientific and **C**ultural **O**rganization); *НАТА* — Арганізацыя Паўночнаатлантычнага дагавора (англ. NATO — **N**orth **A**tlantic **T**hreaty **O**rganization). 3) Абрэвіятуры-калькі. Яны ўтвораны на базе беларускіх намінатыўных словазлучэнняў, але на ўзор адпаведных іншамоўных абрэвіятур: *ЗША — (зэшэа)* — **З**лучаныя **Ш**таты **А**мерыкі (англ. USA — **U**nited **S**tates of **A**merica); *СМП* (**с**умеснае **м**алое **п**радпрыемства) — рус. СМП (**с**овместное **м**алое **п**редприятие); *дзяржплан* — рус. госплан; НАП (**н**авуковая **а**рганізацыя **п**рацы) — рус. *НОТ* (**н**аучная **о**рганизация **т**руда).

Вымаўленне некаторых гукавых абрэвіятур у беларускай мове не заўсёды адпавядае іх напісанню, якое таксама бывае спецыфічным: *ТЮГ* (чытаецца *цюг*) — **Т**эатр **ю**нага **г**ледача. Розныя тыпы абрэвіятур парознаму прыстасоўваюцца да граматычнага ладу беларускай мовы. Так, абрэвіятуры 3-й, 6, 7 і 8-й разнавіднасцей змяняюцца па склонах і практычна не адрозніваюцца ад невытворных і вытворных назоўнікаў з поўным коранем (утваральнай асновай). Нескланяльнымі з'яўляюцца абрэвіятуры, у якіх апошні кампанент — поўнае слова ва ўскосным склоне: *начштаба выклікаў камандзіраў, ад начштаба прыехаў незнаёмы палкоўнік.*

Абрэвіятуры 1-й, 2, 4 і 5-й разнавіднасцей, як правіла, з'яўляюцца нескланяльнымі. Іх родавая прыналежнасць вызначаецца па розных крытэрыях, галоўнымі з якіх трэба лічыць наступныя: а) па родзе апорнага кампанента словаспалучэння, на базе якога абрэвіятура ўтворана: *БДУ* (м. р.) — універсітэт, *ЦУМ* (м. р.) — магазін; б) па характары апошняй літары (гука).

Разам з тым некаторыя гукавыя абрэвіятуры змяняюцца па склонах, напрыклад: *лаўсан, лаўсану; ТЮГ, ТЮГа, ТЮГу; нэп, нэпа, нэпе.* Нескланяльным лічыцца ў літаратурнай мове слова *загс*, але ў размоўным стылі допускаюцца формы *загса, загсу.*

Важным крытэрыем поўнага ўваходжання абрэвіятуры ў сістэму лексічных сродкаў мовы служыць яе здольнасць утвараць новыя словы. У большай ступені гэта характэрна для абрэвіятур, што ўтвораны з усечаных частак (складоў) слоў утваральнага словаспалучэння (3-й і 7-й разнавіднасцей): *філфак* (філалагічны факультэт)→*філфакавец, філфакаўскі; спецкор*→*спецкораўскі.* Магчымы таксама вытворныя і ад літарных і гукавых абрэвіятур, напрыклад: *ААН*→*аан-аўск(і); БАМ* (Байкала-Амурская магістраль)→*бам-аўск(і); нэп*→*нэпман, нэпман-ск(і), нэп-аўск(і).* Не менш істотным паказчыкам ступені асваення абрэвіятур у мове з'яўляецца іх ужывальнасць у вусным маўленні. З гэтага пункту погляду многія літарныя і гукавыя абрэвіятуры не могуць лічыцца паўнацэннымі словамі, а хутчэй могуць быць ахарактарызаваны як скарочаныя сімвальныя запісы шматслоўных назваў устаноў, арганізацый і інш., напрыклад: Беларускі навукова-даследчы інстытут навукова-тэхнічнай інфармацыі — *БелНДІНТІ*; Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў — *МДПІЗМ.* Такія абрэвіятуры набліжаюцца па сваёй функцыі да наменклатурных знакаў і слу-

жаць сродкам кандэнсацыі пісьмовага тэксту, што і адпавядае ў рэшце рэшт прынцыпу эканоміі ў мове (параўнайце таксама маркі машын, прыбораў, самалётаў і інш.: *МАЗ-350, ІВК-3, ТУ-104*).

*Літ.:* Баханькоў А. Я. Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд. Мн., 1982; Шакун Л. М. Словаўтварэнне. Мн., 1978; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985.

*А. А. Лукашанец.*

## АБРЭМБСКАЯ-ЯБЛОНСКАЯ АНТАНІНА



Польскі мовазнавец, даследчык польскай, усходнеславянскай, у т. л. беларускай, моў, доктар філалагічных навук, прафесар Варшаўскага універсітэта А. Абрэмбская-Яблонская (Obrębska-Jabłońska) нарадзілася 12 студзеня 1901 г. ў в. Пчэльня на Украіне. Сваёй навукова-педагагічнай дзейнасцю спрыяла распаўсюджанню ў Польшчы ведаў па ўсходнеславянскай філалогіі. У 1950 г. арганізавала ва універсітэце курс вывучэння рускай мовы, у 1953—57 гг. кіравала секцыяй украінскай і беларускай філалогіі ў Польска-савецкім інстытуце, а пасля яго рэарганізацыі — да 1968 г.— аддзелам беларускай мовы ў Інстытуце славяназнаўства ў Польскай акадэміі навук (ПАН). Адзін з арганізатараў і шматгадовы кіраўнік (1956—72) кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

А. Абрэмбская-Яблонская падрыхтавала навуковыя кадры, якія працягваюць у Польшчы педагагічна-выхаваўчую работу і навуковыя даследаванні ў розных галінах беларускага мовазнаўства. Па яе ініцыятыве распачата вывучэнне ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны, што дало магчымасць прыступіць да выдання шматтомнага дыялектнага атласа гэтага рэгіёна (т. 1—1980, т. 2 — 1988, т. 3 — 1989). Пад яе кіраўніцтвам апрацаваны і выдадзены з каментарыямі і слоўнікам 3 тамы рукапісных фальклорных матэрыялаў М. Федароўскага «Люд беларускі» (т. 5—7, 1958—69); выйшлі з друку працы пра польска-беларускае моўнае пагранічча, па анамастыцы паўночна-ўсходніх зямель Польшчы, даследаванні з розных галін беларускага мовазнаўства. А. Абрэмбская-Яблонская актыўна працавала ў Камітэтах мовазнаўства і славяназнаўства ПАН, рэдакцыях навуковых часопісаў «Język Polski», «Slavia Orientalis», «Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej», «Acta Baltico-Slavica», была арганізатарам і да 1977 г. старшынёй мовазнаўчай камісіі Беластоцкага навуковага таварыства, скіроўвала работу на даследаванне шматмоўнага рэгіёна Беласточчыны. Адна з найбольш цікавых і арыгінальных прац, якія выйшлі ў выдавецкай серыі Беластоцкага навуковага таварыства,— «Дыялектныя тэксты з Беласточчыны з моўным каментарыем» (1972; пад рэдакцыяй і з прадмовай А. Абрэмбскай-Яблонскай), дзе побач з польскімі, украінскімі, літоўскімі і рускімі стараверскімі гаворкамі, бадай, асноўнае месца займаюць беларускія. Асабістыя навуковыя інтарэсы вучонай засяроджваліся ў асноўным вакол праблем, даследаваннем якіх яна кіравала. Гэта работы па дыялекталогіі, гісторыі і культуры польскай мовы, па русістыцы і асабліва беларусістыцы на шырокім славянскім фоне. У беларусістыцы, побач з дыялекталогіяй, яна займалася пытаннямі польска-беларуска-літоўскага моўнага пагранічча, гісторыі мовы і анамастыкі. Яе навуковыя працы добра аргументаваныя, цікавыя зместам і формай. Прыкладам можа служыць яе даследаванне пра «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча ў перакладзе на беларускую мову Браніслава Тарашкевіча (1984). Рэдактар (разам з М. В. Бірылам) «Падручнага польска-беларускага слоўніка» (1962). Рэцэнзавала працы беларускіх вучоных А. К. Антановіча, У. В. Анічэнкі, А. І. Жураўскага, А. П. Груцы і інш.

*Тв.:* Życie i praca naukowa E. F. Kąrskiego (1.I.1861—29.IV.1931) w setną rocznicę urodzin // Slavia Orientalis. 1961. Nr 2; O niektórych gramatycznych osobliwościach gwar białoruskich (w związku z projektem ogólnosłowiańskiego atlasu językowego) (з Ю. Мацкевіч, А. Мурашкай) // Тамсама. 1962. № 1; Dialektologiczna problematyka badan slawistycznych na Białostocczyźnie // Acta Baltico-Slavica. 1964. Nr 1; Да гісторыі нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972; Даследаванне беларускай мовы ў Польшчы // Беларуская лінгвістыка. Мн., 1972. Вып. 2; [Рэц.] McMillin A. B. The Vocabulary of the Byelorussian Literary Language in the Nineteenth Century // Slavia Orientalis. 1974, Nr 4; Białoruska fleksja męskich nazw osób na *-a/-ja* na tle starosłowiańskim i staroruskim // Studia Rossica. I. Poznań, 1976.

*Літ.:* Maryniakowa I., Grek-Pabisowa I. W 80-lecie urodzin Profesor Doctor Antoniny Obrębskiej-Jabłońskiej // Acta Baltico-Slavica. 1984. Nr 160; Czurak M. Bibliografia prac Antoniny Obrębskiej-Jabłońskiej // Тамсама. *В. Л. Вярэніч.*

## АВАНЕСАЎ РУБЕН ІВАНАВІЧ



Рускі мовазнавец, збіральнік дыялектнай лексікі рускага народа, стваральнік айчыннай лінгвагеаграфічнай школы Р. І. Аванесаў нарадзіўся 1 лютага 1902 г. ў г. Шуша Елізаветпольскай губерні (цяпер райцэнтр у Нагорным Карабаху). У 1925 г. скончыў Маскоўскі універсітэт. Прафесар (1937), доктар філалагічных навук (1948), член-карэспандэнт АН СССР (1958). Ганаровы член Лінгвістычнага таварыства Чэхаславацкай АН (1965), ганаровы доктар Варшаўскага універсітэта (1973); член Акадэміі навук і літаратуры ў Майнцы (ФРГ), член АН у Лейпцыгу (1978). Р. І. Аванесаў вёў даследаванні ў галіне малараспрацаваных і найбольш важных у тэарэтычным плане праблем фанетыкі і фаналогіі, арфаэпіі і арфаграфіі, гісторыі рускай мовы і дыялекталогіі, лінгвагеаграфіі і лексікаграфіі. Памёр Р. І. Аванесаў 1 мая 1982 г. ў Маскве.

На працягу амаль 35 гадоў (з 1948 г.) Р. І. Аванесаў актыўна супрацоўнічаў з беларускімі мовазнаўцамі. Асабліва вялікі ўклад яго ў развіццё беларускай дыялекталогіі і гісторыі беларускай мовы. Яго тэарэтычныя распрацоўкі, праекты даследаванняў і асабісты ўдзел у іх рэалізацыі, практычная дапамога выканаўцам, работа па падрыхтоўцы кадраў дабратворна паўплывалі на

развіццё беларускага мовазнаўства ў 1950—80-я гг. Пры яго ўдзеле ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі выдадзены таксама «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы» (ч. 1—2, 1961—62), «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі» (1962), «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964).

Р. І. Аванесаў — ініцыятар складання дыялектных атласаў рускай, беларускай і ўкраінскай моў. За актыўны ўдзел у калектыўных комплексных работах па беларускай лінгвагеаграфіі («Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», 1963; «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак», ч. 1—2, 1968—69) яму разам з аўтарскім калектывам Інстытута мовазнаўства АН Беларусі была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР 1971 г.

У 1958 г. на IV Міжнародным з'ездзе славістаў Р. І. Аванесаў сумесна з С. Б. Бернштэйнам выступіў з ідэяй стварэння Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа (АЛА). Ідэя была ўхвалена, а Р. І. Аванесаў абраны старшынёй Міжнароднай камісіі АЛА. За адносна кароткі час у нашай краіне, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Балгарыі, Югаславіі, а таксама ў месцах пражывання славянскага насельніцтва ў Германіі, Венгрыі, Румыніі, Італіі, Аўстрыі больш як у 850 населеных пунктах многанацыянальны калектыў сабраў вялікі матэрыял. На тэрыторыі Беларусі з гэтай мэтай былі даследаваны гаворкі 74 населеных пунктаў (на картах атласа яны значацца пад № 327—400). У 1982 г. пад рэдакцыяй Р. І. Аванесава выйшаў з друку ўводны выпуск АЛА. У 1988 г. выйшлі першыя выпускі дзвюх серый АЛА — «Лексіка-словаўтваральнай» і «Фанетычнай». Атлас — унікальнае даследаванне, скарбніца дыялектнай мовы ўсіх славянскіх народаў, у ім адлюстраваны стан дыялектаў славянскіх моў у галіне фанетыкі, лексікі, словаўтварэння, семантыкі, акцэнтуацыі і інш.

*Літ.*: Библиография трудов Р. И. Аванесова (1927—71) // Русское и славянское языкознание: К 70-летию Р. И. Аванесова. М., 1972; Бірыла М. В. Рубен Іванавіч Аванесаў // Беларуская лінгвістыка. Мн., 1983. Вып. 22. *М. В. Бірыла.*

## АДАМЧЫК ВЯЧАСЛАЎ УЛАДЗІМІРАВІЧ

Беларускі пісьменнік В. У. Адамчык нарадзіўся 1 лістапада 1933 г. ў в. Варакомшчына Дзятлаўскага раёна. У 1952—57 гг. вучыўся ў БДУ, у 1965 г. скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў у газетах «Знамя юности» (1957—58), «За вяртанне на Радзіму» (1958—60), рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР (1960—62), у часопісах «Полымя» (1962—69), «Неман» (1965—67), «Маладосць» (1969—77). З 1977 г. галоўны рэдактар сцэнарнай майстэрні кінастудыі «Беларусьфільм», у 1980 г. намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура», з 1980 г. літаратурны кансультант СП БССР, з 1982 г. галоўны рэдактар часопіса «Бярозка». Празаік, драматург, перакладчык, аўтар сцэнарыяў мастацкіх і дакументальных фільмаў.

Нават першыя мастацкія творы празаіка вызначаліся сур'ёзным роздумам над жыццём, выразнымі бытавымі і пейзажнымі замалёўкамі і «свежай першароднасцю слова» (Р. Шкраба). У невялікім апісанні *Прыйдзе вечар, стане мякка шарэць за вокнамі. Падаіўшы карову, маці будзе цадзіць малако на лаўцы пры печы, і яно будзе цёпла і густа шумець у конаўцы* (апавяданне «Пах летняй травы») ужыты звычайныя словы, аднак спалучаны яны так, што ўяўляецца, як ***цёпла*** і ***густа*** шуміць сырадой, як ***мякка*** 'павольна, непрыкметна' *шарэе* 'цямнее' за вокнамі вясковай хаты. Такое жывапісна-пластычнае ўспрыманне і мастацкае адлюстраванне жыцця на ўзроўні мовы найчасцей выяўляецца ў «густаце прыметнікаў, дзеепрыметнікаў, іншых слоў і сінтаксічных канструкцый, што абазначаюць прыкметы» (А. Каўрус). Прыметнікі і прыслоўі, паясняючы назоўнікі і дзеясловы, даюць магчымасць звярнуць увагу на адметныя якасці названых прадметаў, абстрактных паняццяў і розных дзеянняў. У апавяданні «Там, на хутары» расказваецца, як гаспадыня збіраецца паіць карову: маладзіца *пусціла ў* ***халодную*** *цемень* калодзежа вядро, выкруціла яго, *злавіла* ***сухімі*** *губамі яго* ***халодны*** *край*, і *вада* ***цвёрдым*** *холадам апякла грудзі*. Гераіня апавядання «Дзень ранняй восені» Аксіння ***мякка*** *хавае ад хлопца свае вочы* і ***ціха-радасна*** *нагінае галаву*. Імполь у рамане «І скажа той, хто народзіцца» пасля разлукі з Хрысцяю прыгадвае яе ***ружовую*** *гарачыню шчочак* ***і спакусліва-мяккія*** *абветраныя губы*. Паказваючы душэўны стан Чэсі пасля смерці яе бацькі, В. Адамчык у гэтым жа рамане піша: ***Зыркі, ясны*** *свет* ***маладой*** *радасці, смеху, дзявочых залётаў нечакана змерк*, і дзяўчына доўга душыла ў сабе пачуцці да Міці Корсака, каб *зноў* ***горка і адчайна*** *не абкалоцца аб вострыя асот* ***глухое*** *абыякавасці.*

Пісьменнік умела выкарыстоўвае патэнцыяльныя магчымасці слова, рэалізуючы ў кантэксце яго прамыя і пераносныя значэнні. У творах празаіка, напрыклад, прыметнік *густы* і прыслоўе *густа* набываюць нават нечаканы сэнс: *Лубін пахне* ***густым*** *цяплом,* ***густая*** *ноч млее на дварэ* («Пах летняй травы»); ***густа*** *шуміць вецер* («Чужая бацькаўшчына»); *Міцю помніцца цягучае,* ***густое,*** *перамешанае з пахам смалы, цяпло прысадзістых хвоек* («І скажа той, хто народзіцца»). Часта карыстаецца Адамчык і дзеясловам *гусцець*, які звычайна спалучае з сінанімічным радам слоў *змрок, цемра, поцемак, прыцемак, цемната: Чэз, наліваўся слепатою сіні вечар, у хаце* ***гусла,*** *хоць бяры яе навобмацак, цемната; У хаце* ***гус*** *і ліп на вочы, як павучына ў лесе, сухі поцемак* («Чужая бацькаўшчына»). Гэты дзеяслоў, як і адпаведны прыметнік, у прыведзеных кантэкстах абазначае стан насычанасці цяплом або цемнатою і разам з тым дае магчымасць уявіць гэтае цяпло і цемру як нешта матэрыяльнае, пра што сведчаць ужытыя аўтарам параўнанні.

Пісьменнік вельмі любіць параўноўваць, супастаўляць, заўважаючы нейкае падабенства там, дзе другі яго проста не прыкмеціў бы. Параўнальныя звароты ў творах В. Адамчыка вельмі часта ўдакладняюць, разгортваюць аўтарскую думку. Яны сведчаць пра незвычайную назіральнасць мастака слова, яго абвостраны зрок і слых: *Губы перасохлі, на іх,* ***як на звялым яблыку,*** *сцягнулася скура* («Чужая бацькаўшчына»); *У счарнелым леташнім быльніку,* ***як наеты вол круглымі бакамі,*** *разлёгся сівы абымшэлы камень* («Год нулявы»); *Нехта раптам гукнуў,* ***як успуджаны япрук...*** («Голас крыві брата твайго»); *Значыліся пад паркалёваю блузкай,* ***як грыбкі пад кастрыцай,*** *дробныя грудзі* («І скажа той, хто народзіцца»). Ужывае В. Адамчык і бяззлучнікавыя параўнанні, выражаныя назоўнікам творнага склону з прыметнікам або дзеепрыметнікам: ***Сырым чырванаватым жаўтком*** *з-за хаты слізка выплыў месяц* («Дзень ранняе восені»); ***Нявыбеленым палатном*** *слалася чэрствая пясчаная дарога* («Чужая бацькаўшчына»). Параўнаннямі шчодра насычаны раннія апавяданні пісьменніка, яго раман «Чужая бацькаўшчына». В. Адамчык карыстаецца імі, калі хоча высвеціць нейкую грань пейзажнага ці бытавога апісання. Дзеян-



не ў творах часта адбываецца зімой, калі ідзе снег. Ён у пісьменніка то *сухі, лёгкі, сыпкі, мяккі, пухкі*, то *белы, сіні, сіняваты, сівы, чысты, брудны, мурзаты, чорны*, то *глыбокі, дробны, малады, зляжалы, цвёрды*. Снег то *падае, ідзе, сыпле, ляціць, сеецца, сцелецца, цярушыцца, мяце*, то *хрумсціць, шахкае, шоргае, скрыпіць, рыпіць*. Гэтыя ўласцівасці снегу, паказаныя з дапамогай адпаведнага сінанімічнага слова, В. Адамчык імкнецца падсвяціць па-мастацку ўпісаным у радок параўнаннем, як, напрыклад, у рамане «Чужая бацькаўшчына»: *Снег сеяўся, **як праз сіта, сухі і лёгкі;** Навокал быў **сіняваты, як крухмал,** набрынялы вадою снег; **Пухкі** снег зацерушыў сцежкі і цяпер **пахрумстваў** пад нагамі, **як сухое сена ў каня на зубах.***

Ужыванне параўнальных зваротаў у апошніх раманах В. Адамчыка паступова змяншаецца. Затое павялічваецца колькасць эпітэтаў і метафар: *Цвёрдая, сухая сцежка **ўбегла** ў халодны і настылы лес і скоранька **знайшла** там вузенькую, засыпаную тлустым цёмна-сіняватым асовым лісцем дарогу; Як чыстая вада па каменьчыках, у яго душы **пералівалася** радасць* («Чужая бацькаўшчына»); *У адчыненай палавінцы акна на **жывым** скразняку **самлела ўздыхала** накрухмаленая фіранка; На завостраны шчыкетнік плота **сонна наваліўся** жоўты куст акацыі* («Год нулявы»). Аднак у раманах «І скажа той, хто народзіцца» і «Голас крыві брата твайго» перавага аддаецца двухступеньчатым і нават трохступеньчатым тропам, якія даюць магчымасць эканомна і выразна паказваць розныя праявы чалавечых пачуццяў: *Міця падышоў сарамяжліва, але з бяспамятнай радасцю, распасцёршы рукі, абняў іх абедзвюх — і сасну, **шурпата-спакойную,** з мяккім **густа-ласкавым** шумам разгойданых галін над галавою, і яе, Чэсю, **задуменна-прыгожую,** з немігаючым, утаропленым недзе ў сябе, бліскучым у шарасці зімовай ночы позіркам* («І скажа той, хто народзіцца»). Складаныя прыметнікі *шурпата-спакойная, густа-ласкавы, задуменна-прыгожая*, абедзве часткі якіх нясуць значную інфармацыю, дакладна перадаюць псіхалагічны стан закаханых. Ужываючы такія мастацкія азначэнні, В. Адамчык стварае таксама выразныя пейзажныя і бытавыя малюнкі: *На полі ўсё было **густа-цёмна-зялёнае** і спакойнае* («Год нулявы»); *Афіцыянтка разлічвала **п'янавата-балбатлівых** мужчын* («І скажа той, хто народзіцца»); апісвае знешні выгляд персанажаў: *Прыпомнілася Гурава **злосна-крывавая** губа* («І скажа той, хто народзіцца»); *Дзяўчына **здзіўлена-вялікімі** вачмі глядзела на Міцю* («Голас крыві брата твайго»). Найчасцей пісьменнік спалучае такія прыметнікі з абстрактнымі назоўнікамі, дасягаючы тым самым выразнага мастацкага эфекту: ***трывожна-неадчэпны** смутак зашчымеў у душы; віравала невымоўная **сарамліва-ценькая** радасць; Міця жыў, пакутуючы **салодка-балючым** шчасцем таго, што было, і спакуслівым, **нясцерпна-тамлівым** жаданнем, каб усё паўтарылася зноў...* («І скажа той, хто народзіцца»). Адамчык наогул часта спалучае словы, якія абазначаюць блізкія паняцці: ***чорна-дымныя** ягады ядлоўца, **хітра-спакуслівы** позірк, **невыносна-цяжкія** думкі, **аднастайна-нуднае** шапаценне, **крамяна-цвёрды** яблык.* У такіх складаных словах адметна рэалізуюцца патэнцыяльныя магчымасці беларускай сінанімікі.

Сінанімічныя словы ў апавяданнях і раманах В. Адамчыка выконваюць разнастайныя функцыі. Але найчасцей пісьменнік выкарыстоўвае градацыю (амфлікацыю) сінонімаў, у выніку якой выказаная думка ўдакладняецца, а апісанне робіцца больш выразным, шматпланавым: *Каля стрэх **запырхалі, затрапяталіся** вераб'і; Алесю ўзяў жаль, што за адну гэту восень бацька **пахуднеў, усох** і ўжо **гнецца ў крук;** **Нема выў і енчыў,** разарваўшыся ў тэлефонным дроце, раз'юшаны вецер; Пачаў біць **сухі, удушлівы** кашаль* («Чужая бацькаўшчына»).

Яшчэ на пачатку творчай дарогі В. Адамчыка І. Мележ адзначаў рэдкае багацце слоўніка пісьменніка і добры густ, з якім той ставіцца да выбару моўных сродкаў. Апісваючы жыццё ў заходнебеларускіх вёсках і мястэчках, В. Адамчык карыстаецца featurerознымі лексічнымі пластамі мовы. Сярод іх значнае месца займае дыялектная лексіка, добра вядомая пісьменніку з маленства. Дыялектызмы натуральна ўпісваюцца як у аўтарскі тэкст, так і ў рэплікі персанажаў, найперш, зразумела, вяскоўцаў — верасаўцаў, ведраўцаў, дубатоўцаў. У аўтарскім тэксце дыялектызмы называюць віды гаспадарчых пабудоў і іх частак: *Гумно стаяла ўпоперак двара, вялікае, з дзвюма **палувенкамі** паабапал* («Чужая бацькаўшчына»); *У **памялешніку** ля вёдраў і чыгуноў таўкліся дзеці* («На крыжавых дарогах»); прадметаў вясковага побыту, відаў ежы, аддзення: *Таўклі **картоплямі** ў падсмажанае на **паніве** і стаўчанае ў цёрле льняное семя* («Чужая бацькаўшчына»); *Іншы раз сюды, у Камароў кут, прыганялі кароў мяшчане, цыбатыя, у кароткіх **майтках** і ў жоўтых блішчастых касках, накрадзеных, напэўна, у мястачковай пажарнай* («Раяль з адламаным вечкам»); *Весела лямпа з шкляным **«магазынам»*** («Год нулявы»).

У творах В. Адамчыка шырока адлюстраваны раслінны свет роднага краю. З народных назваў вядомых і малавядомых зёлак, прыгаданых у раманах, можна стварыць невялікі батанічны слоўнік. Вось толькі адзін абзац з рамана «Год нулявы»: *Усё верасоўскае балота стракацела ад жоўтае **маслянкі,** сярод якой пакалыхваліся калматыя таўкачыкі **вобаратніку,** ліловых, затоеных у **мятліцы гараб'ёвых кветачак,** ружавата-вялае **смолкі.** Далей ад багнішча ў асацэ свяціўся бурачковай, сабранай у чачотку кветкай тоўсты, з краплістым лісцем **зязюльнік,** а бліжэй раскручваў з трубкі лісце маладэ, не пацямнелы яшчэ **чэмер.***

Дыялектызмы, як і паланізмы, русізмы, дазваляюць пісьменніку індывідуалізаваць мову персанажаў. Вось як, напрыклад, старая Шайбачыха жаліцца Алесі на свайго пеўня:— *Разбэсціўся **наўнэт...** Гэта ж стары мой **дапетрыў** — навучыў **петуха** біцца. **Цяперка** рады няма. Абы-хто да парога, **дак** ён — на плечы.* У рэпліках Чэсі і яе блізкіх часта ўжываюцца польскія словы:— ***Міцек,** я **хцэн** спакою... Я не **вем,** цо робіць.* Оперупаўнаважаны Сяміглазаў павучае Імполя так:— *Не **ўсігда** давяряйся. **Спярва** правер, а потым вер* («І скажа той, хто народзіцца»). Адлюстроўваючы заходнебеларускую рэчаіснасць, В. Адамчык натуральна карыстаецца паланізмамі і ў аўтарскай мове. Найбольш іх у рамане «І скажа той, хто народзіцца»: *Чэсі ўспаміналася леташняя **выцечка** на Палессе; Гэтай гутаркі Хрысця не даслухала, яе паклікала **«салёва»** — калідорная сястра пані Богна; Праўдніца падняла вочы на суконную з прастрочаным брылём **рагатыўку.***

Значнае месца ў моўнай палітры В. Адамчыка займаюць фразеалагізмы: *Павязе прадаваць цяля і **за адным,** як кажуць, **швом** мог бы падвезці каго-небудзь у Дварчаны* («Чужая бацькаўшчына»); *Хрысця стаяла, **збітая з тропу,** не ведаючы, што і казаць далей* («Год нулявы»);— *Як мая Кася там, у Латвіі? Во, **ні слуху ні духу...** А ён жа нікому і **вока не запарушыў*** («І скажа той, хто народзіцца»). Да фразеалагізмаў пісьменнік ставіцца традыцыйна, іх ён ужывае звычайна без аўтарскіх змен. Мову персанажаў часта ажыўляюць прыказкі і прымаўкі: *Як даглядаемся, так і маемся; Што галава, то й розум; І квіта — пане Мікіта! Пакуль цэп — патуль хлеб* («Чужая бацькаўшчына»).

Пераважная большасць герояў В. Адамчыка — вяскоўцы, псіхалогію і звычкі якіх ён добра ведае. Паказваючы духоўны свет гэтых людзей ва ўсёй разнастайнасці яго сацыяльна-псіхалагічных праяў, празаік карыстаецца рознымі спосабамі перадачы чужога маўлення. Просты чалавек на людзях звычайна негаманкі, таму дыялогі ў творах В. Адамчыка дынамічныя і нешматслоўныя, часта са значным падтэкстам. У канцы апавядання «Дзень ранняй восені» бацька размаўляе з сынам, якога ўпершыню ўбачыў падлеткам. Яны едуць у горад,

каб купіць хлопчыку *палітцо*:

— *Дык ты прыязджай і на другую восень*,— *сказаў ён* [бацька], *не знімаючы рукі з худога пляча.— Тут у мяне во: груш, яблыкаў. Дома ж няма.*

— *Чаму, ёсцека. Дзічка за хатаю.*

У рамане «Чужая бацькаўшчына» ў хаце Корсакаў адбываецца такая размова:— *Цяпер усе ў палітыку кінуліся, а свету не пераробіш.— Алеся ўздыхнула, расслабіла пад барадою хустку.*

— *Яны ж усё нейкую Беларусь шукаюць. А я кажу — бог адзін і цар адзін.*

— *Бог то адзін, але людзі не аднакавыя ў яго,— сказаў Міця, не чуючы ні да сястры, ні да бацькі злосці.*

Кароткія дыялогі ў творах В. Адамчыка часта дапаўняюцца ўнутранымі маналогамі персанажаў, аформленымі па правілах няўласна-простай мовы. Гэты важны элемент пісьменніцкага апісальнага стылю дае магчымасць выявіць духоўны свет героя, адлюстраваць яго нявыказаны ўголас перажыванні і пачуцці, звязаныя з канкрэтнымі абставінамі жыцця: *Маладзіца як сама не свая паднялася з лавы, але ўчула, што слабеюць ногі і ўсё халадзее і дрыжыць у грудзях, і села. Няўжо гэта праўда? Няўжо ён служыць у паліцыі і страляе ў людзей?.. Няўжо праўда? Няўжо яна не здурэла!? Яна заплюшчыла вочы і ўчула, як цяжкая гарачыня з шумам хлынула ў галаву* («Там, на хутары»). Гэты ўнутраны маналог маладой жанчыны, што ў галодны ваенны час ратуе сваё і чужое дзіця, вельмі цікавы ў сінтаксічных адносінах. Аўтар карыстаецца паўторамі рытарычных пытанняў, якія пачынаюцца аднолькавай пытальнай часціцай *няўжо*. Асабліва сэнсава ёмістае апошняе пытанне-сцверджанне: *Няўжо яна не здурэла!?* У ім крык душы спакутаванай маладзіцы, блізкай да адчаю. Некалькі ў іншым плане пабудаваны ўнутраны маналог Міці ў рамане «Чужая бацькаўшчына»: *Міцю ўзяла трывога, ахапіў страх, у нейкай звар'яцелай гарачыні завірылі, закружыліся, як глыбокая вада, яго мыслі: ён згіне, прападзе ў гэтым бясконцым свеце — і пасля яго не астанецца нічога. Няўжо гэта праўда? Няўжо? І ён, як за саломіну, хапаўся зноў за тое, што перадумаў раней, кожны раз сам-насам, стаіўшыся перад сном,— ён зробіць нешта вялікае на гэтай зямлі дзеля сябе і дзеля сваіх людзей, ён пойдзе ваяваць за іхнюю волю. Ці згіне, але яго будуць помніць. Чалавек павінен пакідаць пасля сябе памяць.* Аўтар перадае стан унутранага неспакою свайго персанажа. У апісанні, якое падводзіць да кароткіх трывожных воклічаў, слова *гарачыня* паясняецца нечаканым азначэннем — *звар'яцелая*. Гэта ўжо не роспач, не адчай ад таго, што нічога не зменіш, як у папярэднім кантэксце, а страх і жаданне знайсці выхад, пазбегнуць бясследнага існавання на зямлі.

У творах В. Адамчыка арганічна знітаваны і па-мастацку абумоўлены лексічныя і марфалагічныя сродкі мовы, сінтаксічная арганізацыя фразы і яе слоўная напоўненасць. Пісьменнік рупна ставіцца да багаццяў роднай мовы, захоўвае яе нацыянальныя заканамернасці пры словаўжыванні, марфалагічных змяненнях і структурнай арганізацыі сінтаксічных адзінак.

*Літ.*: Шкраба Р. Скарбы. Мн., 1973; Мележ І. Пра зборнік В. Адамчыка «Дзікі голуб» // Мележ І. Жыццёвыя клопаты. Мн., 1975; Андраюк С. Жыць чалавекам. Мн., 1983; Лецка Я. Хараство і боль жыцця: Нарыс творчасці Вячаслава Адамчыка. Мн., 1985; Каўрус А. Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989. *Т. М. Кананенка.*

## АДАСОБЛЕНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА

Адасобленыя члены сказа — гэта залежныя словаформы і словазлучэнні, якія інтанацыйна і сэнсава выдзяляюцца для таго, каб надаць ім большае значэнне ў маўленні.

Адасабленне заўсёды суправаджаецца своеасаблівымі зрухамі ў структурнай арганізацыі сказа і парушэннем сувязей паміж яго кампанентамі, таму сказы з адасобленымі членамі заўсёды маюць расчляпёную структуру, у якой змешчана паступовае паведамленне. Гэта абумоўлена характарам асобных словаформ і словазлучэнняў, якія не могуць быць пададзены ў межах адзінай прэдыкацыі сказа па прычыне лексічнай, камунікатыўнай ці граматычнай несумяшчальнасці іх з астатняй часткай сказа. Параўнаем: *Акропленая расою трава зіхацела на сонцы.— Акропленая расою, трава зіхацела на сонцы.* У першым выпадку спалучэнне слоў *акропленая расою* з'яўляецца залежным кампанентам складанага словазлучэння, дзе пазіцыю галоўнага кампанента займае назоўнік *трава*; у другім выпадку гэтае спалучэнне, атрымаўшы дадатковае акалічнаснае адценне, адрываецца ад назоўніка *трава* і ўтварае самастойнае словазлучэнне, якое прымацоўваецца да прэдыкатыўнай асновы ўсяго сказа. У сказе адасобленыя члены афармляюцца залежнай інтанацыяй і сваю граматычную і семантычную пэўнасць атрымліваюць толькі ў сувязі з астатняй часткай сказа. Маючы здольнасць частковага сцвярджэння або адмаўлення, яны нясуць дадатковае паведамленне і таму набываюць большую сінтаксічную важнасць і стылістычную выразнасць у сказе. Адасобленыя члены сказа выражаюцца рознымі часцінамі мовы, маюць неразвітую або развітую будову і ўводзяцца ў сказ пры дапамозе інтанацыі, службовых і мадальных слоў: *Ужо не вернецца ніколі краса, адцвіўшая даўно* (П. Трус); *Шляхам, хаця і нялёгкім, // Мы цвёрда да шчасця ідзём* (А Звонак); *Усе палешукі, у тым ліку і стараста, пісаць не ўмелі* (Я. Колас); *Некалькі грузавікоў замітусіліся на ўзбярэжжы, відаць, спадзеючыся праскочыць якім-небудзь бродам* (М. Лынькоў). Адасобленыя члены аддзяляюцца ад астатняй часткі сказа адпаведнай паўзай, маюць сінтагматычны націск, аслабленую інтэнсіўнасць маўлення і запаволены тэмп у постпазіцыі або ўзмоцненую інтэнсіўнасць і паскораны тэмп у прэпазіцыі. Яны адносна свабодна размяшчаюцца ў структуры сказа: *Прыгрэты сонцам, дзед задрамаў; Дзед, прыгрэты сонцам, задрамаў; Дзед задрамаў, прыгрэты сонцам.* На пісьме адасобленыя члены сказа выдзяляюцца коскамі або працяжнікамі.

У сказе могуць адасабляцца толькі залежныя кампаненты. У іх пазіцыі ўжываюцца азначэнні (дапасаваныя і недапасаваныя), якія выражаюць атрыбутыўныя адносіны: *Неба, зацягнутае шэрымі хмарамі, нізка навісла над лесам* (У. Карпаў); *Быў у замку дзед Даніла, // Родам дзесь з-пад Мазыра* (Я. Колас); прыдаткі, якія выражаюць апазітыўныя адносіны: *Гудуць вячэрняю парой // Дубы — старыя бандурысты* (М. Танк); дапаўненні, якія выражаюць камплетыўныя адносіны: *Замест цёмнай нуднай ночы — // Ясны дзень даўно настаў* (У. Хадыка); акалічнасці, якія выражаюць сітуацыйныя адносіны: *Галлё спусціўшы над парканам, // Расла тут грушка з тонкім станам* (Я. Колас); *А там, за ціхай рэчкаю, // Шуміць арэшнік малады* (Я. Купала).

Семантыка-сінтаксічныя адносіны паміж адасобленымі членамі і астатняй часткай сказа маюць паўпрэдыкатыўны або ўдакладняльна-паясняльны характар. Паўпрэдыкатыўнасць выяўляецца ў тым, што адасобленыя члены змяшчаюць дадатковае паведамленне, валодаюць асобай змястоўнай самастойнасцю, суадносячыся з прэдыкатыўнымі часткамі складанага сказа, маюць дадатковую мадальнасць і дадатковы сінтаксічны час, прымацоўваюцца не да асобнай словаформы, а да структурнай асновы сказа: *Увосень цвітуць на ўзлеску верасы, залітыя ласкавым сонцам* (Я. Брыль).— *Увосень цвітуць на ўзлеску верасы, якія заліты ласкавым сонцам.*

Пры ўдакладняльна-паясняльным характары семантыка-сінтаксічных адносін адасобленыя члены служаць для канкрэтызацыі асобных словаформ у сказе, з'яўляючыся інфарматыўна неабходнымі або спадарожнымі элементамі зместу ўвасобленага ў ім паведамлення: *Там, далёка за дамамі, // Разляглося поле* (Я. Колас); *У беларускіх лясах гнездзіцца жаўна, або чорны дзяцел* (В. Вольскі); *На голых дрэвах, замест лісця, // Паклалі шэрань маразы* (Я. Колас). Удакладняльна-паясняльныя кампа-

ненты не суадносяцца з прэдыкатыўнымі часткамі складанага сказа, бо пазбаўлены значэння паўпрэдыкатыўнасці, не маюць дадатковай мадальнасці і дадатковага сінтаксічнага часу.

Сказы з адасобленымі членамі рознай будовы асабліва актыўна ўжываюцца ў пісьмовых тэкстах сучаснай беларускай мовы. Яны служаць своеасаблівым сродкам эканоміі моўных намаганняў, канцэнтруючы выказванне вакол аднаго прэдыкатыўнага ядра. Пры рацыянальным выкарыстанні адасобленых членаў ствараюцца вобразныя пабудовы, эканомныя па форме і ёмістыя па змесце. Яны падкрэсліваюць семантычную важкасць дадатковай інфармацыі і садзейнічаюць павышэнню яе камунікатыўнай дзейснасці. Аднак злоўжыванне адасобленымі членамі можа прывесці да неапраўданага ўскладнення структуры тэксту, семантычнай і стылістычнай перагружанасці паведамлення, што адмоўна адбіваецца на дакладнасці і выразнасці яго сэнсу.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 2. Сінтаксіс. Мн., 1966; Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986. *Л. І. Бурак.*

## АДЗІНКІ СЛОВАЎТВАРЭННЯ

Кожная навука мае свой прадмет вывучэння, пэўныя адзінкі, з дапамогай якіх вывучаецца і даследуецца тая ці іншая з'ява. Словаўтварэнне як раздзел мовазнаўства таксама мае свой прадмет вывучэння і свае спецыфічныя адзінкі, якія адпаведным чынам класіфікуюцца і ўтвараюць пэўную сістэму словаўтваральных паняццяў, а таксама дазваляюць сістэматызаваць моўны матэрыял. Сярод адзінак словаўтварэння цэнтральнае месца займае в ы т в о р н а е  с л о в а, паколькі яно, з аднаго боку, з'яўляецца канчатковым прадуктам, вынікам словаўтваральнага працэсу, а з другога — выступае як аб'ект вывучэння.

Як прадукт працэсу словаўтварэння вытворнае слова дастаткова складаная адзінка моўнай сістэмы. У ім вылучаюцца: 1) утваральная аснова, якая можа быць толькі коранем або спалучэннем кораня і розных службовых марфем (афіксаў); 2) словаўтваральныя марфемы (афіксы): прэфіксы, суфіксы, постфіксы, інтэрфіксы, часам флексіі (падрабязней пра іх гл. **Марфемны і словаўтваральны аналіз слова**). Параўнайце: *лес → ляс**нік**, ехаць → **пры**-ехаць, мыць→мыц-**ца**, вада* і *лазіць→вад-**а**-лаз, кум→кум-**а**.* Усе словаўтваральныя афіксы аб'ядноўваюцца агульнай назвай — словаўтваральны фармант. Часам словаўтваральны фармант складаецца з некалькіх афіксаў. Напрыклад: *акно → **пад**-акон-**нік**, гара → **пры**-гор-**ак**, рука → **бяз**-рук-**і**.* Утваральная аснова слова называецца словаўтваральнай базай. У складаных словах словаўтваральная база складаецца з дзвюх і больш утваральных асноў. Такім чынам, вывodзіцца наступны рад моўных адзінак: марфема — слова, а ў адносінах да словаўтварэння — словаўтваральная база (аснова), словаўтваральны фармант (афікс) — вытворнае слова. У гэтым радзе вытворнае слова з'яўляецца вышэйшай адзінкай словаўтварэння, якая складаецца з больш простых.

Акрамя названых, існуе шэраг словаўтваральных адзінак, якія ўяўляюць сабой пэўныя групоўкі вытворных слоў, звязаных паміж сабой адносінамі словаўтваральнай матывацыі. Гэта такія комплексныя адзінкі словаўтварэння, як словаўтваральны тып, словаўтваральны рад, словаўтваральны спосаб, словаўтваральная па́ра, словаўтваральны ланцужок, словаўтваральная парадыгма, словаўтваральнае гняздо. Яны маюць класіфікацыйны характар, таму што з'яўляюцца аб'яднаннямі вытворных слоў на аснове якой-небудзь словаўтваральнай прыкметы і фарміруюцца даследчыкам для вывучэння тых ці іншых словаўтваральных працэсаў і з'яў. У гэтым радзе словаўтваральных адзінак вытворнае слова выступае як састаўны кампанент структурна больш складаных адзінак.

С л о в а ў т в а р а л ь н ы  т ы п, напрыклад, аб'ядноўвае ў сваім складзе вытворныя словы, якія маюць аднолькавыя словаўтваральную базу, словаўтваральны фармант і словаўтваральнае значэнне. Так, адзін словаўтваральны тып утвараюць словы *студэнтка, трактарыстка, акушэрка, чытачка, артыстка, спявачка* і інш. Усе яны ўтвораны ад назваў асоб мужчынскага полу па прафесіі ці па родзе заняткаў з дапамогай суфікса *-к(а)*. Іх агульнае словаўтваральнае значэнне — назва асоб жаночага полу па прафесіі ці родзе заняткаў. Вось яшчэ прыклады словаўтваральных тыпаў: *сірыец, кітаец, японец, бельгіец, в'етнамец, эстонец, азербайджанец; паехаць, пабегчы, паляцець, папаўзці, панесці, пашыць, пабудаваць, паламаць, пасадзіць; сінець, бялець, чарнець, сівець, чырванець, зелянець.* Словаўтваральны тып з'яўляецца састаўной часткай такіх больш складаных адзінак, як словаўтваральны рад і словаўтваральны спосаб. С л о в а ў т в а р а л ь н ы  р а д аб'ядноўвае вытворныя адзінкі, якія характарызуюцца агульнасцю словаўтваральнага фарманта і словаўтваральнага значэння. Напрыклад, у адзін рад уключаюцца назвы жыхароў, утвораныя ад назваў краін *(канадзец, інданезіец)*, тэрыторый *(данбасец, каўказец, тыбецец, тайванец)*, гарадоў *(берасцеец, маладзечанец, кішынёвец, талінец)*. У адзін с л о в а ў т в а р а л ь н ы  с п о с а б аб'ядноўваюцца вытворныя з аднатыпнымі словаўтваральнымі сродкамі. Параўнайце: суфіксальны спосаб, прэфіксальны спосаб, абрэвіяцыя, словаскладанне (гл.) і г. д.

С л о в а ў т в а р а л ь н а я  п а́ р а — гэта аб'яднанне двух слоў, з якіх адно з'яўляецца ўтваральным, а другое — вытворным. Напрыклад: *снег→снеж-**н**-ы, трава→трав-**інк**-а, стары → стар-**э**-ць, кніга→ кніж**нік**, капаць → **вы**-капаць* і г. д. У прыведзеных прыкладах кожнае другое слова ўтворана ад першага.

С л о в а ў т в а р а л ь н ы  л а н ц у ж о к уяўляе сабой рад аднакарэнных слоў, звязаных адносінамі паслядоўнай словаўтваральнай матывацыі: *каса → кас-**і**-ць → **на**-касіць → накош-**ва**-ць → **па**-накошваць; белы → бял-**і**-ць → **па**-бяліць → пабел-**ен**-ы; вучыць → вуч-**ань** → вуча-**ніц**-а.* Усе звёны словаўтваральнага ланцужка, акрамя першага і апошняга, маюць двухбаковую сувязь. У адносінах да папярэдняга слова яны з'яўляюцца вытворнымі, а ў адносінах да наступнага — утваральнымі.

С л о в а ў т в а р а л ь н а я  п а р а д ы г м а — сукупнасць вытворных слоў, якія маюць адну словаўтваральную базу. Напрыклад:

*мора →* *мар-**ск**-і*, *мар-**ак***, *мар-**а**-ход*

*рэзаць →* *рэзац-**ца***, *рэза-**нн**-е*, *рэз-**к**-а*, *разь-**б**-а*, *рэз-**чык***, *раз-**ец***, ***аб**-рэзаць*, ***вы**-разаць* і г. д.

*марак→* *марач-**к**-а*, *марач-**ок***, *марац-**к**-і*

*накасіць →* *накасіц-**ца***, *накош-**ва**-ць*

*сіні →* *сін-**еньк**-і*, *сін-**е**-ць*

Колькасны склад словаўтваральнай парадыгмы можа быць розны і залежыць ад характару ўтваральнага слова. Невытворнае слова звычайна мае бо́льшую парадыгму (гл. *рэзаць*), вытворнае — меншую (гл. *накасіць*). Мінімальная словаўтваральная парадыгма мае выгляд словаўтваральнай па́ры *(глобус → глобус-**н**-ы)*.

С л о в а ў т в а р а л ь н а е  г н я з д о — сукупнасць аднакарэнных слоў, упарадкаваных адносінамі паслясл оўнай словаўтваральнай матывацыі:

*вечар*
*вечар-ок*
*вечарк-ом*
*вечар-ын-а*
*вечар-ынк-а*
*вячор-к-і*
*вячор-ніц-а*
*вячэр-а*
*вячэр-а-ць*
*да-вячэраць*
*па-вячэраць*

*вячэр-н-я*
*вячэр-н-і*
*вячэр-нік*
*вячэр-ніц-а*
*перад-вячэрні*
*па-вячэрн-яму*
*вечар-ава-ць*
*вячэр-эць*
*з-вечарэць*
*па-вечарэць*
*у-вечарэць*
*ад-вячор-ак*
*адвячорк-ам*
*адвячорк-ав-ы*
*з-вечар-а*
*у-вечар*
*у-вечар-ы*

Такія шырокаўжывальныя невытворныя словы з некалькімі значэннямі, як *біць, мыць, несці, хадзіць* і інш., утвараюць разгалінаваныя гнёзды з мноствам вытворных у сваім складзе. Напрыклад, гняздо *капаць* толькі па матэрыялах «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» складаецца з 165 вытворных слоў, *мыць* — з 101.

Словаўтваральнае гняздо — найбольш складаная адзінка ў іерархіі класіфікацыйных адзінак словаўтварэння. Яно можа быць прадстаўлена як сукупнасць словаўтваральных пар, словаўтваральных ланцужкоў або словаўтваральных парадыгм. Усе гэтыя класіфікацыйныя адзінкі і асабліва словаўтваральнае гняздо даюць магчымасць не толькі вывучаць розныя аспекты беларускага словаўтварэння, але і адлюстроўваць класіфікацыю і асаблівасці сістэмнай арганізацыі лексічнага складу мовы з пункту погляду сэнсавых узаемасувязей. Таму даследаванне словаўтваральных гнёзд з'яўляецца адным з асноўных спосабаў вывучэння слоўнікавага складу беларускай мовы.

*Літ.:* Шакун Л. М. Словаўтварэнне. Мн., 1978; Лукашанец А. А. Актуальныя пытанні словаўтварэння ў беларускай мове // Бел. лінгвістыка. Мн., 1981. Вып. 19. *А. А. Лукашанец.*

## АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА

Аднародныя члены сказа — дзве ці больш словаформы, якія выконваюць аднолькавую сінтаксічную функцыю і ў аднолькавай ступені адносяцца да агульнага для іх слова ў сказе. Яны сінтаксічна раўнапраўныя, часцей за ўсё маюць паралельныя (марфалагічна прыпадобненыя) формы і абазначаюць аднатыпныя паняцці: *Горад і вёска апранулі святочны ўбор* (П. Глебка); *Лес маўчыць глуха, зацята, знямела* (Я. Колас). Аднародныя члены ў сказе аб'ядноўваюцца злучальнай сувяззю. Гэта сувязь не ўносіць якасных змен у структуру сказа, бо яна толькі пашырае сказ за кошт уключэння ў яго склад аднатыпных членаў і не патрабуе выдзялення для кожнага з іх асобнага тыпу пазіцый. Паўтарэнне пазіцыі аднаго з членаў у сказе — гэта колькаснае пашырэнне структуры сказа, павелічэнне інфармацыйнай ёмістасці выказвання. Асноўныя сродкі злучальнай сувязі — злучнікі і інтанацыя. Ужыванне таго ці іншага злучніка абумоўлена характарам семантыка-сінтаксічных адносін, у якія ўступаюць аднародныя члены ў сказе. Спалучальныя адносіны афармляюцца злучнікамі *і, ды: Дзень спякотны і вясёлы з песняй жнійнаю прыйшоў* (П. Броўка); *Каласіцца на палетку жыта ды пшаніца* (К. Крапіва); супастаўляльныя — злучнікамі *а, але* і інш.: *Свеціць зімою сонца, а не грэе* (К. Чорны); *Маленькі, але жвавы конік бяжыць трушком* (І. Шамякін); размеркавальныя — злучнікамі *ці, або, то — то* і інш.: *Невыразна даносяцца мужчынскія ці жаночыя галасы* (М. Чарот); *Цэлы дзень па шашы ішлі або ехалі розныя людзі* (П. Пестрак); *То разбяжыцца, то пухам засцелецца // Хітрая мяцеліца* (П. Броўка); градацыйныя — злучнікамі *не толькі — а (але) і: Дэталі можна не толькі выточваць, а і штампаваць* (У. Шахавец); *Электрычнасць асвятляе не толькі будынкі, але і доўгую вуліцу* (Я. Бядуля); уступальныя — злучнікам *хоць: Шапаціць мне штосьці жыта, // Хоць слоў не гаворыць* (Я. Купала); уступальна-супраціўныя — злучнікамі *хоць — а, хоць — але* і інш.: *Хоць нядоўга, а спорна праходзілі дажджы* (Э. Самуйлёнак); *Лемяшэвіч хоць не надта разумеў, але любіў музыку* (І. Шамякін).; параўнальна-супастаўляльныя — злучнікамі *як — так, не столькі — колькі: Як дзень, так і ноч палыхае ў домнах агонь* (А. Вялюгін); *Не столькі бацька, колькі маці клапоціцца пра лёс сваіх дзяцей* (Я. Колас); умоўна-супастаўляльныя — злучнікамі *калі не — то, раз не — дык: Калі не выберацца, то ўгразне конь на балоце* (К. Чорны); *Раз не сёння, дык заўтра трэба быць у горадзе* (І. Новікаў); далучальныя — злучнікамі *ды, ды і* і інш.: *Вырас засеў небывалы, // Ды прыгожы, ды прыўдалы* (Я. Колас); *Горад ды і вёска перабудоўваліся на новы лад* (М. Зарэцкі). Аднародныя члены часта аб'ядноўваюцца бяззлучнікавым спосабам, пры якім асабліва вялікая роля належыць інтанацыі. Такім спосабам звычайна афармляюцца спалучальныя і супастаўляльныя адносіны: *На калгасным полі жыта красавала, кланялася ветру, колас налівала* (А. Русак); *Не кавыль — пшаніца ззяе ў пацерках расы* (М. Хведаровіч).

Злучнікавыя і бяззлучнікавыя аднародныя члены ў сказе могуць быць прадстаўлены адным або некалькімі радамі — адкрытымі і закрытымі. У адкрытым радзе фармальная арганізацыя паасобных членаў і семантыка-сінтаксічныя адносіны паміж імі дапускаюць свабоднае ўключэнне новых членаў: *Ракеты асвятлялі наваколле то белым, то ружовым, то блакітным святлом* (Т. Хадкевіч); *У бубны дахаў вецер б'е, // Грыміць па ім, звініць, пяе* (М. Багдановіч). Фармальная арганізацыя закрытага раду не дапускае свабоднага ўключэння новых членаў, бо гэта вядзе да парушэння пэўных семантыка-сінтаксічных адносін паміж аднароднымі членамі: *Галіны дрэў церліся адна аб другую і скрыпелі* (З. Бядуля); *У хаце цесна, затое весела* (І. Мележ); *Хоць балюча, ды без злосці // Мне сябры давалі ў косці* (П. Панчанка). Адкрытыя рады могуць сумяшчацца з закрытымі: *Сосны і вязы, дубы і асіны // Вакол возера вартай пасталі* (Я. Купала); *Ляжыць мой край на Дзвіне і Дняпры, на Бугу і Нёмане, на Прыпяці і Бярэзіне* (Я. Колас).

У адкрытым ці закрытым радзе аднароднымі могуць быць дзейнікі: *Дзед і Мікола мнагазначна пераглянуліся* (М. Лынькоў); выказнікі: *Возера плешча, бурліцца* (М. Багдановіч); азначэнні: *Драбнюткі, але спорны дождж церусіў цэлыя суткі* (П. Пестрак); дапаўненні: *І кмінам, і смажанай рыбай, // І ветрам падула з гары* (А. Куляшоў); акалічнасці: *Марозны снег пад нагамі парыпвае гучна і бадзёра* (Я. Брыль); *У лесе ды і ў полі пачынала цямнець* (П. Галавач). Аднародныя члены ў сказе выражаюцца не толькі аднолькавымі, але і рознымі часцінамі мовы, напрыклад: *Ліда — вясёлая па натуры і любіць смяяцца* (А. Кулакоўскі). Некаторыя з аднародных членаў могуць мець пры сабе паясняльныя словы: *Аднекуль здалёк даляталі дзіцячыя галасы, кукарэканне пеўня і прыглушаны гул малатарні* (І. Шамякін); *Буслы збіраліся ў чароды і доўга стаялі на грудах або ляніва аглядалі лагчыны* (Я. Колас); *Усе напружана ўслухоўваліся ў шумлівае дыханне ночы, у неспакойныя парывы ветру* (М. Лынькоў).

У сказе з аднароднымі членамі могуць быць словы, якія абагульняюць іх змест. Спецыфічнай асаблівасцю гэтых слоў з'яўляецца тое, што яны суадносяцца з аднароднымі членамі як родавыя і відавыя паняцці. Сярод абагульняючых слоў найбольш ужывальны займеннік *усё* (іншы раз у спалучэнні з займеннікам *гэта*), які размяшчаецца перад або за аднароднымі членамі: *Усё цвіло: яблыні, вішні* (І. Грамовіч); *Будынак, парк і агарожа — // Было ўсё слаўна і прыгожа* (Я. Колас); *Дрэвы, стагі, будынкі — усё гэта зліваласся з гарызонтам* (З. Бядуля). Пазіцыя абагульняючага слова ў сказе аказвае адпа-

ведны ўплыў на яго семантыку: пры прэпазіцыі рэалізуецца ўдакладняльнае абагульненне, а пры постпазіцыі — уласнае абагульненне.

Аднародныя члены сказа валодаюць багатымі моўна-выяўленчымі магчымасцямі. З іх дапамогай арганізуюцца такія стылістычныя фігуры, як антытэза, градацыя, зеўгма, асіндэтон, полісіндэтон і інш., якія павышаюць інфарматыўнасць выказвання, узмацняюць яго камунікатыўную дзейснасць.

Ад аднародных членаў сказа трэба адрозніваць словы, якія паясняюць, удакладняюць, канкрэтызуюць сэнс папярэдніх слоў: *Бывала, у летнія вечары, як толькі клаліся змрокі, сяло пачынала жыць другім, вечаровым жыццём* (Я. Скрыган).

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 2. Сінтаксіс. Мн., 1966; Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986.

*Л. І. Бурак.*

## АДНАСАСТАЎНЫЯ І ДВУХСАСТАЎНЫЯ СКАЗЫ

Граматычную (прэдыкатыўную) аснову сказа складаюць або спалучэнне галоўных членаў — дзейніка і выказніка, або адзін галоўны член. Дзейнік разам з залежнымі ад яго членамі сказа (ці без іх) утварае састаў дзейніка, а выказнік — адзін ці з паясняльнымі словамі — састаў выказніка. Калі сказ уключае абодва саставы, ён двухсастаўны: *Нерухома стаяў густы амярцвелы лес* (Я. Колас), а калі састаў аднаго галоўнага члена — аднасастаўны: *Вось улетку дык раздольна* (Я. Колас); *Ноч. Халодная зямлянка. Перастрэлка. Цішыня* (П. Глебка). Галоўны член аднасастаўнага сказа па форме супадае або з дзейнікам, або з выказнікам двухсастаўнага сказа. Таму аднасастаўныя сказы падзяляюцца на дзве асноўныя групы: аднасастаўныя сказы з галоўным членам — выказнікам і аднасастаўныя сказы з галоўным членам — дзейнікам.

У залежнасці ад таго, якой часцінай мовы выражаецца галоўны член аднасастаўных сказаў, апошнія падзяляюцца на дзеяслоўныя і іменныя. Да дзеяслоўных адносяцца асабовыя (пэўна-асабовыя, няпэўна-асабовыя, абагульнена-асабовыя) і неасабовыя (безасабовыя і інфінітыўныя). Дзеяслоўныя аднасастаўныя сказы выражаюць дзеянне, утваральнік якога не называецца. Іменныя аднасастаўныя сказы называюць прадмет думкі, яго існаванне ў момант гутаркі. Да іменных адносяцца намінатыўныя, назыўныя, генітыўныя і вакатыўныя сказы.

Асабовыя сказы — гэта аднасастаўныя сказы, у якіх галоўны член (дзеяслоў-выказнік) называе дзеянне ці стан якой-небудзь асобы (суб'екта), аднак сама асоба словам не названа, хоць і падказваецца — з рознай ступенню канкрэтнасці — асабовымі дзеяслоўнымі формамі галоўнага члена. У пэўна-асабовых сказах абазначаецца дзеянне, утваральнікам якога з'яўляецца пэўная асоба,— сам гаворачы ці яго субяседнік, на што паказваюць формы 1-й і 2-й асобы дзеяслова-выказніка: *Люблю наш край, старонку гэту...* (К. Буйло); *Сядзь бліжэй да мяне, пагаворым* (В. Адамчык). Пэўна-асабовыя сказы сінанімічныя двухсастаўным сказам з дзейнікам-займеннікам *я, мы, ты, вы,* параўнайце: *Жадаю вам поспехаў* і *Я жадаю вам поспехаў.* Аднак у пэўна-асабовых сказах акцэнтуецца ўвага на самім дзеянні, а ў двухсастаўных актуальнымі з'яўляюцца і дзеянне, і ўтваральнік яго — дзейнік. Пэўна-асабовыя сказы надаюць размове лаканічнасць, непасрэднасць, таму яны найчасцей выкарыстоўваюцца ў гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры. У няпэўна-асабовых сказах абазначаецца дзеянне, утваральнікам якога выступае няпэўная або невядомая асоба, а выказнік выражаецца дзеясловам у форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага часу або формай множнага ліку прошлага часу: *Вам раскажуць пра дысцыпліну. У нас зброю не губляюць. У дзверы пакоя нясмела пастукалі* (І. Шамякін). Утваральнік дзеяння часам можа канкрэтызавацца акалічнаснымі словамі ці кантэкстам: *У хату яго запрасілі ветліва* (І. Грамовіч) — гаспадары; *З нашай бульбы тысячу, не меней, смажаць і гатуюць розных страў* (П. Панчанка) — гаспадыні, кухары. Няпэўна-асабовыя сказы шырока выкарыстоўваюцца ў гутарковай мове і ў мастацкай літаратуры, а таксама ў публіцыстыцы. У абагульнена-асабовых сказах абазначаецца дзеянне, якое ў аднолькавай ступені адносіцца да любой асобы, а выказнік выражаецца дзеясловам у форме 2-й асобы (радзей у форме 1-й, 3-й асобы): *Што пасееш, тое і пажнеш; Шыла ў мяшку не схаваеш; Пераначуем — болей пачуем; У лес дроў не возяць* (прыказкі). Абагульнена-асабовыя канструкцыі найчасцей выкарыстоўваюцца ў прыказках; у форме гэтых сказаў падаюцца парады, выдаюцца загады, што адрасуюцца абагульненай групе асоб: *Любіце і шануйце родную мову!* (Я. Колас); *Не завіце маю рэспубліку краінай цёмных лясоў* (К. Кірэенка). Найбольш шырока выкарыстоўваюцца абагульнена-асабовыя сказы ў гутарковай мове, у мастацкай і публіцыстычнай літаратуры.

Неасабовыя сказы — гэта аднасастаўныя сказы, галоўны член якіх (выказнік) абазначае дзеянне ці стан, што ўзнікаюць самі па сабе, не залежаць ад асобы: *Цямнее. Стала холадна.* Паводле формы выражэння галоўнага члена і з улікам значэння неасабовыя сказы падзяляюць на безасабовыя і інфінітыўныя аднасастаўныя сказы. У безасабовых сказах галоўны член выражаецца безасабовымі дзеясловамі або безасабовымі формамі асабовых дзеясловаў, а таксама безасабова-прэдыкатыўнымі словамі, нярэдка ў спалучэнні з інфінітывам: *Світае. Заснуць у гэтую ноч не давялося: было цесна і душна* (Я. Колас); *Тут пахне рыбаю і морам* (С. Грахоўскі). Безасабовыя сказы не маюць граматычнага суб'екта (асобы), аднак семантычны суб'ект у такіх сказах можа быць, ён выражаецца дапаўненнем у форме давальнага або творнага склону назоўніка (займенніка): *Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому* (Я. Колас); *Нам не спіцца; Яму сорамна; Цягне дымам; Пахне вясной.* Безасабовыя сказы могуць абазначаць стан як вынік пэўнага дзеяння; галоўны член такіх сказаў выражаецца дзеепрыметнікам залежнага стану: *У хаце прыбрана па-святочнаму* (М. Лынькоў); *Пра ўсё ўжо гаворана і перагаворана* (А. Карпюк). Такія сказы часам называюць іменна-безасабовымі. Асобны від безасабовых сказаў складаюць адмоўныя сказы, у іх галоўны член найчасцей выражаецца дзеясловам *быць (стаць)* з адмоўем *не* ці словам *няма: Не было ў нас іншага клопату, як добрасумленна працаваць, хоць і хлеба часта неставала* (В. Адамчык); *Вось і няма больш халадоў* (Я. Колас). Безасабовыя сказы выкарыстоўваюцца як у гутарковай мове, так і ў афіцыйна-дзелавой і навуковай.

Інфінітыўныя сказы — гэта аднасастаўныя сказы з галоўным членам — выказнікам, выражаным незалежным інфінітывам, якія абазначаюць магчымае, немагчымае, неабходнае ці непазбежнае дзеянне: *Табе, Беларусь, у вяках красавацца* (П. Прыходзька); *Тварыць і жыць пад сонцам праманістым, быць маладым у працы год да ста* (П. Прыходзька). Ад безасабовых інфінітыўныя сказы адрозніваюцца тым, што ў апошніх інфінітыў не залежыць ад іншых слоў, а, наадварот, ад яго залежаць — у граматычных і сэнсавых адносінах — усе астатнія словы: *Не злічыць у небе ясных зорак* (М. Багдановіч). У безасабовых сказах з інфінітывам у састаў выказніка ўваходзіць таксама дзеяслоў або безасабова-прэдыкатыўнае слова, да якіх прымыкае інфінітыў: *Чалавеку хацелася пажартаваць, пасмяяцца* (І. Шамякін); *Сёлета можна спадзявацца на добры ўраджай* (І. Пташнікаў). Інфінітыўныя сказы нярэдка ўваходзяць у складаназалежны сказ у ролі даданых сказаў мэты або ўмовы: *Зямлёю твой розум няма ла заняты, каб выгляд надаць ёй другі* (Я. Колас). Інфінітыўныя сказы з

часціцай *бы (б)* выражаюць пажаданасць ці непажаданасць дзеяння: *Убачыць бы шчаслівым родны край* (Я. Колас); *Вам бы ў аратыя пайсці* (П. Місько). Інфінітыўныя сказы пашыраны як у гутарковай, так і ў кніжнай мове, дзе яны выкарыстоўваюцца ў загадах, закліках, лозунгах: *Стварыць усе ўмовы для нармальнай працы!*

Намінатыўныя сказы — гэта аднасастаўныя сказы з галоўным членам, выражаным назоўнікам назоўнага склону, якія сцвярджаюць наяўнасць, існаванне прадметаў, з'яў у момант гутаркі: *Вось і лес і стажок сена каля лесу.* Галоўны член намінатыўных сказаў можа выражацца не толькі назоўнікам назоўнага склону, але і іменным словазлучэннем: *Памор'е. Польшча. Год трыццаць дзевяты* (А. Зарыцкі); *Натоўп народу. Безліч кніг.* Часам першы кампанент у такіх словазлучэннях можа апускацца, і тады функцыю сказа бярэ на сябе форма роднага склону назоўніка. Параўнайце: *А трафеяў! Колькі трафеяў! Вось гэта па-баявому!* (А. Кулакоўскі). Такія сказы вымаўляюцца з інтанацыяй канстатацыі, што паказвае на існаванне прадметаў, з'яў. Паколькі галоўны член тут мае форму роднага склону, іх называюць генітыўнымі (ад лац. genitivus родны склон) у адрозненне ад намінатыўных (ад лац. nominativus назоўны склон). Намінатыўныя сказы могуць быць развітымі, у састаў іх уваходзяць дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні. Апошнія ў форме ўскосных склонаў назоўнікаў абазначаюць прыкмету прадмета праз указанне на месца ці час: *Хатка над балотцам* (Я. Колас); *Ранак перад бурай* (В. Адамчык). Ад намінатыўных адрозніваюць назыўныя сказы — назвы ўстаноў, кніг, выдавецтваў і г. д.: *Акадэмія навук Беларусі; «Сымон-музыка»* (паэма Я. Коласа); *«Народная асвета»* (выдавецтва або назва часопіса). Вакатыўныя сказы (ад лацінскага vocativus клічны) складаюцца з аднаго назоўніка (у форме звароткa) і вымаўляюцца з інтанацыяй папроку, спачування, заклiку, нязгоды з субяседнікам і інш. У мастацкіх творах змест такіх сказаў звычайна акрэсліваецца аўтарскімі рэмаркамі ці вызначаецца сітуацыяй маўлення: — *Сынок, сынок мой! — ламаў рукі дзед Талаш, прыкленчыўшы перад сынам* (Я. Колас); — *Коля, Коля! — Рыданні не давалі ёй гаварыць* (І. Шамякін).

Двухсастаўныя сказы з'яўляюцца найбольш ужывальнымі і тыповымі сінтаксічнымі адзінкамі, асабліва ў пісьмовых стылях мовы — навуковым, афіцыйна-дзелавым.

Некаторыя простыя сказы дапускаюць дваякую кваліфікацыю пры розным актуальным чляненні. Напрыклад, сказ *Цёплы ранак* пры звычайнай інтанацыі, калі даецца толькі канстатацыя факта і лагічны націск падае на назоўнік *ранак*, у функцыі дзейніка, з'яўляецца аднасастаўным (прыметнік *цёплы* выступае як азначэнне). Аднак калі ў гэтым сказе лагічны націск перанесці на першае слова, то сказ стане двухсастаўным, бо ў ім прыметнік *цёплы* будзе абазначаць не толькі якасць, але і ацэнку, стане прэдыкатыўнай адзнакай, будзе суадносіць яе з мадальна-часавым планам, г. зн. сказ набывае тое ж значэнне, што і двухсастаўны сказ *Цёплы выдаўся ранак* ці *Цёплы стаіць ранак.* У вуснай мове галоўную размежавальную ролю бярэ на сябе інтанацыя, а ў пісьмовай мове — кантэкст.

*Літ.:*Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986; Бурак Л. І. Сучасная беларуская мова: Сінтаксіс. Пунктуацыя. Мн., 1987; Яўневіч М. С., Сцяцко П. У. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1987. *П. У. Сцяцко.*

## АДУШАЎЛЁНАСЦЬ — НЕАДУШАЎЛЁНАСЦЬ

Кожны прадмет мае ў мове сваю назву. Што гэта за прадмет — жывая істота ці рэч, з'ява ці абстрактнае паняцце,— той, хто ведае мову, даведваецца па значэнні самога слова. Падзел на жывое і нежывое пэўным чынам адлюстраваўся нават у граматычнай сістэме мовы: форма вінавальнага склону назоўнікаў мужчынскага роду ў адзіночным ліку супадае з формай роднага *(майстар: няма майстра, бачу майстра; верабей: няма вераб'я, бачу вераб'я)* — і мы адзначаем, што назоўнік (у гэтым выпадку *майстар, верабей*) адушаўлёны; форма вінавальнага склону супадае з формай назоўнага *(стол: купіў стол; удзел: прыняць удзел)* — і мы робім вывад, што назоўнік (тут *стол, удзел*) неадушаўлёны. Назоўнікі жаночага роду ў вінавальным склоне маюць сваю асаблівую форму, а таму катэгорыя адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці ў адзіночным ліку не знаходзіць у іх фармальнага выражэння, параўнайце: *бачу хату — бачу карову.* Аднак было б памылкова лічыць, што назвы ўсяго жывога — гэта адушаўлёныя назоўнікі, а нежывога — неадушаўлёныя. Мова — не люстраны адбітак мыслення, ды і само мысленне толькі ў ідэале імкнецца да абсалютна дакладнага адлюстравання рэчаіснасці. Нават у спецыяльнай літаратуры не спыняюцца спрэчкі, ці можна лічыць вірусы жывымі істотамі. Вядома, мы не сумняваемся, што расліны і дрэвы, грыбы і водарасці, бактэрыі і мікробы — усё гэта жывое. Але ў мове назоўнікі, якія называюць пералічаныя прадметы, адносяцца да неадушаўлёных. Мы гаворым: *пасадзіў клён і рабіну, знайшоў пад елкай баравік.*

Катэгорыя адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці мае працяглую і складаную гісторыю. Зарадзілася гэта катэгорыя ў далёкай старажытнасці як проціпастаўленне асобы — неасобы. У даўнія часы, калі славянскія мовы яшчэ не падзяліліся на асобныя галіны — усходнеславянскую, заходнеславянскую і паўднёваславянскую, адушаўлёнымі лічыліся выключна назвы асоб мужчынскага полу, ды і то толькі ў форме адзіночнага ліку. Прыблізна ў 11—12 ст. становіцца нормай ужыванне як адушаўлёных і назоўнікаў — назваў асоб мужчынскага полу — у множным ліку *(пазвалі храбрых мужоў).* Аднак назвы асоб жаночага полу ў форме множнага ліку ўсё яшчэ працягвалі кваліфікавацца як неадушаўлёныя. Да нашага часу дайшлі народныя песні, у якіх ёсць словы: *Частуй дзевачкі маладзенькія.* У гэтым сказе назоўнік *дзевачкі* мае форму вінавальнага як назоўнага, а гэта значыць, што ён успрымаецца як неадушаўлёны. Паводле норм сучаснай мовы мы б сказалі: *Частуй дзевачак маладзенькіх.*

Назвы жывёл у тыя далёкія часы былі назоўнікамі неадушаўлёнымі: жывёлы — не асобы. Але паступова проціпастаўленне асобы — неасобы пачынае пераўтварацца ў проціпастаўленне адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці. Адушаўлёнасць пачала замацоўвацца спачатку за назоўнікамі — назвамі жывёл у адзіночным ліку і даволі позна, у 17—18 ст., за гэтымі ж назоўнікамі ў множным ліку. Яшчэ і сёння на поўдні Беларусі, у мясцовых гаворках, абавязкова скажуць: *пагнаў коні на начлег, падаіла каровы, прыгнаў гусі.* Вядома, літаратурная мова лічыць гэта адхіленнем ад нормы. Норма патрабуе гаварыць *пагнаў коней, падаіла кароў, прыгнаў гусей.* Як пережытак тых даўніх часоў у мове замацавалася ўстойлівая формула: *ісці ў госці, пайсці ў прымакі, хадзіць у людзі* і пад., дзе назоўнікі, якія цяпер несумненна ўспрымаюцца як адушаўлёныя, захавалі форму неадушаўлёных (вінавальны склон супадае не з родным, а з назоўным). Гэта формула стала традыцыйнай у мове і цяпер лічыцца нормай, а таму і новыя словы — адушаўлёныя назоўнікі, ужываючыся ў падобных выразах, захоўваюць форму вінавальнага як назоўнага: *пайсці ў лётчыкі, пайсці ў касманаўты.*

Падзел назоўнікаў на адушаўлёныя і неадушаўлёныя ў пэўнай ступені звязаны з пытаннямі *хто?* і *што?* Як правіла, да адушаўлёных назоўнікаў мы ставім пытанне *хто?*, а да неадушаўлёных — *што?* Аднак поўнай адпаведнасці і тут не існуе. Наўрад ці мы спытаем *«Хто цябе ўкусіў?»*, маючы на ўвазе камара ці авадня. Таксама не зусім удалым будзе пытанне *«Хто гэта праляцеў?»*, калі гаварыць пра пчалу ці муху. Та-

кім чынам, пытанне *хто?* ставіцца ў першую чаргу да назваў асоб, а таксама жывёл і птушак.

Адушаўлёнасць — неадушаўлёнасць цесна звязана з катэгорыяй роду. Адушаўлёныя назоўнікі — гэта пераважна словы мужчынскага і жаночага роду. Назоўнікаў ніякага роду нямнога: *млекакормячае, насякомае* і пад., а таксама назвы недарослых істот: *дзіця, цяля (цялё), ягня (ягнё), ласяня (ласянё)* і пад. Гэтымі словамі і вычэрпваецца, у асноўным, кола адушаўлёных назоўнікаў ніякага роду. Марфалагічнае выражэнне катэгорыя адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці знаходзіць у тым, што формы вінавальнага склону супадаюць з формай роднага ў адушаўлёных і з формай назоўнага — у неадушаўлёных. Найбольш паслядоўна сваё фармальнае выражэнне гэта катэгорыя знаходзіць у назоўніках мужчынскага роду: тут яна выяўляецца як у адзіночным ліку [за выключэннем слоў на *-а (-я)* тыпу *стараста, суддзя*], так і ў множным. Формы вінавальнага склону ў такіх адушаўлёных назоўніках заўсёды супадаюць з формамі роднага, напрыклад: *сустрэў суседа, сустрэў суседзяў*, а формы вінавальнага ў неадушаўлёных — з формамі назоўнага, напрыклад: *збудавалі дом, збудавалі дамы*. У назоўніках ніякага і жаночага роду, а таксама ў назоўніках мужчынскага роду на *-а (-я)* тыпу *стараста, суддзя* катэгорыя адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці фармальна выяўляецца толькі ў множным ліку. Такім чынам, у формах множнага ліку супадзенне роднага з вінавальным адзначаецца ва ўсіх адушаўлёных назоўніках — і мужчынскага, і жаночага, і ніякага роду: *пайшоў да хлопцаў, дзяўчат, дзяцей — прывітаў хлопцаў, дзяўчат, дзяцей*. Катэгорыя адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці ўласціва займеннікам *я, ты, мы, вы, сябе, хто* (і ўсім вытворным ад апошняга: *нехта, ніхто, хтосьці, хто-небудзь* і інш.), а таксама *ён, яна, яно, яны* незалежна ад таго, на жывую асобу ці на прадмет указваюць займеннікі 3-й асобы. Выяўляецца гэта катэгорыя і ў словах, якія дапасуюцца да назоўнікаў: прыметніках, якасных займенніках, колькасных і парадкавых лічэбніках. Такія словы звычайна выражаюць катэгорыю адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці толькі сінтаксічна, несамастойна — дапасаваннем у адпаведных формах да назоўнікаў. Напрыклад: *убачыў такіх бездапаможных двух шэранькіх зайчанят* (але пры неадушаўлёных: *пачуў такі хвалюючы гук — першы вясновы гром*). Такім чынам, форма дапасаванага слова з'яўляецца толькі дапаможным сінтаксічным сродкам выражэння названай катэгорыі. Калі ж дапасуемыя прыметнікі, займеннікі ці лічэбнікі ў сказе адносяцца да нязменных назоўнікаў або да назоўнікаў мужчынскага роду на *-а (-я)* тыпу *стараста, суддзя*, тады сінтаксічнае выражэнне адушаўлёнасці становіцца адзіным, а значыць — асноўным сродкам граматычнага яе выяўлення. Мы гаворым: *сустрэў двух знаёмых аташэ і знаёмага суддзю; У заапарку ўбачыў двух прыгожых какаду.*

Катэгорыя адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці не застаецца нязменнай; яна развіваецца, уцягваючы ў сваё кола ўсё большую колькасць слоў. Так, у апошні час у мове ўсё часцей сталі ўжывацца як адушаўлёныя назвы дробных жывых істот *(лічынка, бактэрыя, мікроб)*, назвы рэдкіх, экзатычных жывёл, жывых істот *(кальмар, амар, мідзія, трэпанг)*. Праўда, яшчэ і цяпер часцей ужываюцца як неадушаўлёныя такія назоўнікі, як *інфузорыя, бацыла, вірус* і інш. Да адушаўлёных адносяцца і такія назоўнікі, як назвы памерлых людзей *(нябожчык, мярцвяк)*, назвы міфічных істот *(русалка, лясун, дамавік, вадзянік, дракон, чорт, бог, анёл)*, назвы шахматных фігур ці фігур на картах, а адсюль — і назвы саміх карт ці фігур *(кароль, афіцэр, пешка; туз, валет)*, назвы лялек *(лялька, марыянетка, бураціна, чыпаліна, клоун, чабурашка)*. Значэнне адушаўлёнасці ўспрымаецца як больш моцнае, і таму назоўнікі неадушаўлёныя, калі яны пры пераносным ужыванні набываюць значэнне асобы, прымаюць форму адушаўлёных. Напрыклад: *разведчыкі прывялі языка* (палоннага), *дзе ты бачыў гэтага тыпа?* (чалавека з тымі ці іншымі асаблівасцямі характару), *я добра ведаў аднаго арыгінала* (дзівака, чалавека, не падобнага да іншых). Адушаўлёнымі становяцца пры пераносным ужыванні і такія назоўнікі, як *піла, пень, дубіна* і інш.— як зневажальныя назвы асобы: *ніяк не пераканаю гэтага старога пня*. Ёсць меркаванні, што катэгорыя адушаўлёнасці тут падтрымліваецца катэгорыяй актыўнасці. Калі ж назоўнікі, што ў прамым значэнні з'яўляліся адушаўлёнымі, набываюць пераноснае значэнне і становяцца назвамі твораў літаратуры і мастацтва, сузор'яў і г. д., то такія назоўнікі і пры пераносным ужыванні не трацяць формы адушаўлёнасці: *чытаў «Сымона-музыку», у оперным тэатры глядзелі «Салаўя»* (балет «Салавей»), *наглядалі Вадалея* (сузор'е Вадалея). Такім чынам, агляд развіцця гэтай граматычнай катэгорыі сведчыць, што значэнне адушаўлёнасці ў названай пазіцыі моцнае, яно паступова пашыраецца, уцягваючы ў гэту катэгорыю новыя словы.

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч 1. Мн., 1985; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## АЙКАНІМІКА

Айканіміка (ад грэч. oikos - жыллё і onyma імя, назва) — раздзел тапанімікі, які вывучае айконімы — уласныя назвы паселішчаў (гарадоў, сёл, вёсак, пасёлкаў, хутароў), а таксама сукупнасць назваў — айканімію (гл. **Тапаніміка**).

Айконімы ўтвараюцца на аснове агульнай і ўласнай лексікі. Адна са спецыфічных асаблівасцей славянскай айканіміі — масавае выкарыстанне тэрмінаў, якія абазначаюць тып паселішчаў. На тэрыторыі даўняга славянскага засялення самыя частыя — айконімы з асновай *горад*. Рускія летапісы ў розны час (пачынаючы з 9 ст.) упамінаюць 6 гарадоў пад назвай *Бѣлгородъ* 'прыгожы, светлы горад'. У іх ліку *Бѣла-град* — сведка гераічных падзей, апісаных у «Слове пра паход Ігаравы» (12 ст.), аднайменныя гарады ёсць у паўднёвых і заходніх славян. Неаднаразова паўтараецца на славянскай тэрыторыі назва *Вышегородъ* (звычайна так называліся ўмацаваныя рэзідэнцыі князя, феадала на ўзвышшы або крутым беразе ракі), якая ўпершыню сустракаецца ў летапісных крыніцах Кіеўскай зямлі ў 10 ст. У паўднёвых славян засведчаны г. *Вышаград*, у палякаў — *Вышагруд*. З 10—12 ст. вядома некалькі славянскіх гарадоў пад назвай *Звенигородъ* (у Балгарыі *Звенъгород*) 'вартавы горад з сігнальным звонам'. З усходнеславянскіх айконімаў з асновай *горад* самы старажытны — *Ноўгарад (Новгород Великий)*, які ўзнік каля 8—9 ст. як назва ўмацаванага паселішча ільменскіх славян. Пад 1252 г. летапісы ўпамінаюць беларускі г. Навагародак (сучаснае Навагрудак). Для феадальнай эпохі не менш тыповымі былі айконімы, у якіх слова *горад* спалучалася з іменем. Руская крэпасць *Паўлаград* названа ў гонар наследніка прастола Паўла (1780), а крэпасць *Іван-Горад* – у гонар цара Івана III (1492). Беларускі горад *Давыд-Гарадок* заснаваны валынскім князем Давыдам Ігаравічам на рубяжы 11—12 ст. На тэрыторыі Беларусі шмат айконімаў тыпу *Гарадок, Гародня, Гарадзея, Гарадзец, Гарадзішча, Навагрудак* і інш.

Прыметны след у айканіміі пакінулі назвы іншых відаў паселішчаў, што даўно зніклі або ўжываюцца ў значэнні, далёкім ад таго, якое яны мелі ў момант станаўлення айконімаў. Паводле летапісных звестак, у Старажытнай Русі вельмі распаўсюджаным тыпам паселішча быў *пагост*, які служыў пунктам прыпынку князёў і збораў даніны, месцам гандлю, куды з'язджаліся купцы, або, як іх тады называлі, госці. З прыняццем хрысціянства пагосты набылі статус царкоўных прыходаў. Але ў сувязі з тым, што ў працэсе цэнтралізацыі княжац-

кай улады культурна-рэлігійны цэнтр перамясціўся ў сяло, яны страцілі сваё былое значэнне і пачалі адміраць. На Беларусі і Украіне да 16 ст. ад іх засталіся толькі айконімы *Пагост, Пагосце, Пагосцішча.*

У феадальную эпоху даволі пашыранымі былі *слабоды* і *слабодкі* — паселішчы, якія на пэўны час вызваляліся ад падацей і павіннасцей. На працягу 17—18 ст. яны страцілі спецыфіку і перайшлі ў разрад звычайных вёсак або зліліся з гарадамі. Айконімы не толькі ўвекавечылі слова *слабада*; па іх можна меркаваць пра месца размяшчэння былых слабод *(Лясная Слабада, Лугавая Слабада, Падгародная Слабада, Задруцкая Слабада)*, пра тое, да якога горада або вёскі яны належалі *(Раваніцкая Слабада, Ганцавіцкая Слабада)*, хто быў іх уладальнікам *(Княжая Слабада, Каралеўская Слабада)*, пра нацыянальны склад і род заняткаў іх жыхароў *(Руская Слабада, Літоўская Слабада, Рыбная Слабада)*. Беларускія і украінскія айконімы *Воля, Волька, Вулька, Астравецкая Воля, Вандыволя* і іншыя засведчылі яшчэ адну (зараз зніклую) назву льготнага паселішча — *воля (волька)*, якую прынеслі палякі ў 14—15 ст.

Ад агульных назваў тыпаў паселішчаў вядуць свой пачатак айконімы *Сярэдняе Сяло, Сяльцо, Сялец, Сялко, Сяліба, Селішча, Заселле, Навaселле, Навасёлкі, Выселкі, Прысёлкі, Пасёлак, Паселле, Паселішча, Аселя, Весь, Вёска, Пачынак, Вялікі Двор, Дварэц, Дворышча, Аколіца, Засценкі, Фальваркі, Калонія, Курэнь, Куранец, Мястэчка, Мыза, Ізбішча, Хіжа, След, Стан, Станавішча, Пасада, Хутар* і інш.

Другая характэрная асаблівасць славянскіх айконімаў — высокая суфіксальнасць. Вылучаюцца суфіксы, якія афармляюць пераважна ўласныя назвы гарадскіх або сельскіх паселішчаў.

Гарадам з даўнейшых часоў славяне давалі назвы, утвораныя прыналежнымі суфіксамі *-j, -оў*. Ва ўсходніх славян найбольш папулярнымі яны былі ў 10—12 ст. Звычайна ў аснову назваў клалася імя заснавальніка горада або імя таго, хто атрымліваў яго ў дар: *Тураў* (980) — ад імя першага летапіснага князя *Тура*, які там правіў, *Барысаў* абавязаны сваім узнікненнем *Барысу Усяславічу*, сыну Усяслава Полацкага (1102), *Мсціслаў (Мстиславль)* — смаленскаму князю *Мсціславу* (1156), *Ізяславль (Жеславль, Заславль, Заслаўе)* — князю Уладзіміру, які падараваў яго сыну *Ізяславу* (1128).

Для старажытных беларускіх гарадоў характэрны назвы з суфіксам *-ск*, які далучаецца да асноў уласных назваў рэк: *Полацк (Польтескъ)* на р. *Палата* (першае ўпамінанне 862), *Віцебск (Видбеск, Видебск, Витьбеск)* на р. *Віцьба* (1021), *Пінск (Пинескъ)* на р. *Піна* (1097), *Друцк (Дрютьск, Дрьтеск, Дрьютск)* на р. *Друць* (1092), *Слуцк (Случеск)* на р. *Случ* (1116), *Чачэрск* на р. *Чачэра* (14 ст.). Ёсць усе падставы лічыць, што айконімы *Мінск (Мѣнск, Менск, Менеск, Меньск)* 1067 г. і *Лагойск (Логожск, Логожеск)* 1078 г. таксама суадносяцца з назвамі рэк *Мень (Мена)* і *Лагаза.*

Славянскія айконімы на *-ічы* тыповыя для сельскіх пасяленняў. Сваімі каранямі яны ўзыходзяць да перыяду славянскай прарадзімы. Элемент *-іч* спачатку служыў для абазначэння роднасці або родавай сувязі, потым — для абазначэння сына па бацьку. Так, патомкі *Бабра, Равяты, Азарыя, Даўманта* называліся адпаведна *Бабровічы, Равяцічы, Азарычы, Даўмантавічы.* Калектывы родзічаў, або патраніміі (ад грэчаскіх слоў pāter бацька і ónyma імя — наймение па бацьку), складваліся ва ўмовах патрыярхальна-родавага ладу, але ў перажыткавых формах захоўваліся ў наступных фармацыях. Яны сумесна валодалі зямлёй, разам сяліліся. Патранімічныя гнёзды ў выніку разрастання і дзялення адной патрыярхальнай сямейнай абшчыны стваралі групу пасёлкаў вялікіх і малых сем'яў. Такі сямейна-родавы комплекс у той ці іншай ступені захоўваў гаспадарчае, грамадскае і рэлігійнае адзінства і меў агульную назву паводле імя пачынальніка роду. Патранімічны характар мелі многія беларускія абшчынныя сёлы і дворышчы нават у 16 ст. І сёння яшчэ можна сустрэць вёскі, назвы якіх у сваёй аснове супадаюць з прозвішчамі жыхароў: *Качановічы* (прозвішча *Качановіч*), *Калавуравічы* (прозвішча *Калавуравіч*). Тэрыторыя пашырэння айконімаў на *-ічы* ахоплівае ўсходнюю, цэнтральную і паўднёвую часткі Еўропы: уключае землі лужычан, чэхаў, славакаў, палякаў, беларусаў, украінцаў. У паўднёвых славян яны адзначаюцца пераважна ў Босніі, Герцагавіне, Харватыі і Чарнагорыі, часткова — у Балгарыі. У межах Беларусі, Чэхіі, Славакіі, Югаславіі і Польшчы ёсць зоны, дзе назвы на *-ічы* складаюць 20—60% ад агульнай колькасці геаграфічных найменняў. Зараз на тэрыторыі Беларусі іх каля 3000. У большасці выпадкаў яны паходзяць ад дахрысціянскіх асабовых імёнаў: *Гарыдавічы, Добравічы, Калядзічы, Мардвілавічы, Пухавічы, Раванічы, Смалявічы, Чудзенічы.* Грэчаскія хрысціянскія імёны выкарыстоўваюцца радзей і пераважна ў размоўна-бытавой форме: *Андрушкавічы, Дашкавічы, Міхалевічы, Панюцічы, Юхнавічы, Якавічы, Ярэмічы* (падрабязней гл. **Антрапаніміка**).

Да распаўсюджаных і спецыфічна сельскіх адносяцца таксама назвы на *-шчына, -аўшчына (Жылёўшчына, Кунцаўшчына, Чэхаўшчына), -ова, -ава (Асмолава, Дабрынёва, Матарова), -оўка, -аўка (Грынёўка, Данілаўка, Чыжоўка), -іха (Барцяніха, Берасніха, Канаціха).*

У айканіміі выразней, чым у іншых катэгорыях уласных імёнаў, праяўляецца адчувальнасць да змен у грамадскім жыцці. Многія айконімы перажылі вякі і тысячагоддзі. Большасць жа з іх па розных матывах не раз замянялася на новыя. Старажытны *Бізант* — *Візантыя* з прыняццем хрысціянства быў перайменаваны ў *Канстанцінопаль*, а пасля турэцкай заваёвы — у *Істамбул* (сучасны *Стамбул*). *Крутагор'е* ў 19 ст. перайменавана ў *Койданава*, у 1932 — у *Дзяржынск.*

Перайменаванне — натуральны і непазбежны працэс. Адыходзяць у нябыт абразлівыя і немілагучныя назвы тыпу *Сабакінцы, Бойдзілавічы, Трыбухі, Халуі.* Але беспадстаўна знікаюць і прыстойныя назвы (*Кашчыца, Кардзюкі, Лапоці, Манастыры, Труханавічы, Ляхавічы*). Многія ж назвы, якія прыходзяць ім на змену, грашаць штучнасцю, надуманасцю. Ніяк не ўпісваюцца ў беларускі айканімічны ландшафт наватворы *Атрадная, Мілавідная, Зоранька, Зернавая, Сірэнеўка*, таму што створаны яны па рускай форме без уліку моўнай спецыфікі, практыкі народнай намінацыі, яе мадэлей. Да скасавання старых і падбору новых найменняў трэба падыходзіць вельмі адказна. Не варта забываць, што назвы выконваюць не толькі адрасную функцыю, але і з'яўляюцца каштоўнай часткай нашай культурнай спадчыны, нясуць важную гістарычную інфармацыю.

*Літ.:* Лемцюгова В. П. Беларуская айканімія. Мн., 1970; Яе ж. Восточнославянская ойконимия апеллятивного происхождения: Названия типов поселения. Мн., 1983; Бірыла М. В., Лемцюгова В. П. Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах. Мн., 1973; Сядоў В. В. Старажытнаруская тапанімія на беларускай тэрыторыі // Пытанні беларускай тапанімікі. Мн., 1970; Адамовіч Я. М. Берагчы тапанімію роднага краю // Тамсама; Жучкевіч В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974; Рогалеў А. Ф. Сцежкі ў даўніну: Геаграфічныя назвы Беларускага Палесся. Мн., 1992.

*В. П. Лемцюгова.*

## АКАДЭМІЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПА РЭФОРМЕ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ І АЗБУКІ

Арганізавана Інстытутам беларускай культуры ў Мінску 14—21 лістапада 1926 г. У яе рабоце з правам рашаючага голасу прынялі ўдзел 69 чалавек. Гэта члены Інбелкульта, выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Беларускага камуністычнага універсітэта, Горацкай сельска-



**Білет удзельніка Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. 1926.**

гаспадарчай акадэміі, прадстаўнікі літаратурных аб'яднанняў рэспублікі, а таксама запрошаныя спецыялісты з РСФСР, УССР і з-за мяжы: П. А. Растаргуеў — прафесар Маскоўскага універсітэта, П. Гарчынскі — дацэнт Ленінградскага універсітэта, Ю. Лазарэвіч — супрацоўнік беларускай секцыі Смаленскага губернскага аддзела народнай асветы, К. Німчынаў — дацэнт Харкаўскага інстытута народнай асветы, М. Фасмер — прафесар Берлінскага універсітэта, М. Біржышка — прафесар, рэктар Літоўскага універсітэта ў Коўне, Е. Блесэ — дацэнт Латвійскага універсітэта ў Рызе, Ю. Галомбак — дацэнт Варшаўскага універсітэта, Я. Райніс — народны паэт Латвіі, В. Ю. Ластоўскі — рэдактар часопіса «Крывіч» (Літва), В. Пігулеўскі — дырэктар Беларускай гімназіі ў Люцыне (Латвія), У. А. Жылка — рэдактар часопіса «Прамень» (Чэхаславакія), К. Езавітаў — рэдактар газеты «Голас беларуса» (Латвія).

Праца канферэнцыі праходзіла на пленарных пасяджэннях і ў камісіях. Аб рэформе беларускай азбукі з дакладамі выступілі Я. Ю. Лёсік і П. А. Растаргуеў. Лёсік прапанаваў гукі [дз] і [дж] пісаць праз *д* і *ж* з дыякрытычнымі значкамі зверху — *д̑, ж̑*, а выбухны гук [г], як і ва ўкраінскай мове, абазначаць літарай *г* з хвосцікам справа, паднятым уверх, [ґ]; замест літары *й* увесці літару *j* і спалучэнне зычнага гука *j* з галоснымі гукамі [э], [о], [у], [а] абазначаць літарай *j* з адпаведнай галоснай — *jэхаць, jолка, jунак, маjа*, а літары *е, ё, ю, я* пакінуць для абазначэння адпаведнага галоснага гука і мяккасці папярэдняга зычнага — *лес, нёс, людзі, мяса.* Дакладчык выказаў прапанову замяніць літару *э* літарай *є*, а літару *ы* — літарай *и*. Растаргуеў прапанаваў афрыкаты [дз] і [дж] перадаваць літарамі сербскага алфавіта — *ђ* [*ђ*ед], *ћ* [ха*ћ*у], а літару *й* замяніць літарай *j* і выкарыстоўваць яе ў тых выпадках, як прапанаваў Я. Ю. Лёсік. Прапанова замяніць літару *э* літарай *є*, а літару *ы* — літарай *и* была адхілена. Для больш дэталёвага разгляду прапаноў была створана Графічная камісія, якая пастанавіла афрыкаты [дз] і [дж] замяніць сербскімі літарамі, літару *й* замяніць літарай *j* і ўжываць яе для абазначэння сярэдняньёбнага зычнага гука, а літары *е, ё, ю, я* пакінуць для абазначэння толькі адпаведных галосных гукаў і мяккасці папярэдняга зычнага гука.

Аб рэформе беларускага правапісу былі заслуханы даклады — Я. Ю. Лёсіка і С. М. Некрашэвіча. Лёсік прапанаваў узаконіць на пісьме поўнае аканне і яканне, г. зн. любы галосны няверхняга пад'ёму пасля цвёрдага зычнага перадаваць літарай *а (баранава́ць, дапо́)*, а пасля мяккага зычнага — літарай *я (пяцярня́, лягкаду́мны, пяракулі́ць)*. Зычныя гукі пісаць паводле фанетычнага прынцыпу, за выключэннем канцавых (*казьба* ад «касіць», *ношка* ад «нага», але: *рог, воз*), а гукі [й], [ў], калі яны стаяць асобна (злучнік, прыназоўнік) або ў пачатку слова пасля галоснага,— праз *і, у.* Пазіцыйную мяккасць зычных не абазначаць мяккім знакам *(каменне, снег*, а не *каменьне, сьнег*), а ў назоўніках і прыметніках на канцы не пад націскам замест літары *е* пісаць літару *і (у лесі, леваі рукі)*. С. Некрашэвіч, адзначыўшы асноўныя хібы ў запраектаванай Я. Лёсікам рэформе правапісу, прапанаваў унесці ў правапіс Б. А. Тарашкевіча (яго «Беларуская граматыка для школ» да таго часу была амаль што адзіным падручнікам) з мэтай яго спрашчэння такія змены: галосныя няверхняга пад'ёму пасля мяккіх зычных у першым пераднаціскным складзе перадаваць праз *я*, а ва ўсіх іншых ненаціскных складах — праз *е (вясна́*, але *веснавы́*), у іншамоўных словах пасля цвёрдых зычных не пад націскам перадаваць літарай *а* толькі этымалагічны гук *о (камісія*, але *дэпо)*. Часціцу *не* і прыназоўнік *без* пісаць з літарай *е*, а словы *няма* і *няхай* пісаць з літарай *і*.

Пасля абмеркавання дакладаў пытанне аб рэформе правапісу было перанесена ў спецыяльна створаную Правапісную камісію, якая разгледзела выказаныя дакладчыкамі і ўдзельнікамі канферэнцыі прапановы і большасцю галасоў прыняла такую пастанову: пашырэнне фанетычнага прынцыпу на напісанне зычных не разглядаць, а галосныя няверхняга пад'ёму пасля мяккіх зычных перадаваць на пісьме праз *я* толькі ў першым пераднаціскным складзе; часціцу *не* і прыназоўнік *без* пісаць праз *е*; словы *няхай* і *няма* пісаць праз *я* і гук [й] пасля галосных пры асобным ужыванні або ў пачатку слова пісаць праз *і*, а гук [ў] — праз *ў*.

Былі заслуханы і абмеркаваны азнаямленчыя даклады па іншых пытаннях беларускага мовазнаўства і літаратуры: «Сучасны стан даследавання беларускай мовы» С. Некрашэвіча, «Беларуская мова сярод іншых славянскіх моў» П. А. Бузука, «Асноўныя этапы развіцця новай беларускай лі-




**Запісная кніжка ўдзельніка Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. 1926.**

таратуры» М. М. Піятуховіча, «Нацыянальны адраджанізм і паслякастрычніцкі перыяд» М. І. Гарэцкага, «Даследаванне беларускай літаратуры XIX ст. да 1863 г.» Ю. Галомбака, «Паэтычнае мастацтва ў беларускай літаратуры» А. М. Вазнясенскага.

Канферэнцыя выклікала шырокі рэзананс у краіне і за мяжой. У яе адрас паступіла больш за 30 прывітальных пісьмаў і тэлеграм ад дзяржаўных, навуковых і навучальных устаноў, вучоных і грамадскіх дзеячаў, у т. л. ад Саўнаркома СССР, Наркамасветы РСФСР, Усесаюзнага таварыства культурнай сувязі з замежнымі краінамі, старшыні ЦВК БССР А. Р. Чарвякова, старшыні СНК БССР І. А. Адамовіча, ад прафесараў Дз. М. Ушакова (Масква), Б. М. Ляпунова (Ленінград), М. К. Грунскага (Кіеў), І. А. Бадуэна дэ Куртэнэ (Варшава), І. С. Свянціцкага (Львоў), Г. Лося (Кракаў). Ход канферэнцыі шырока асвятляўся ў друку. Рэспубліканскія газеты змяшчалі не толькі інфармацыю аб яе рабоце, але даклады і некаторыя выступленні. «Савецкая Беларусь» 17.11.1926 пісала: «Цікавасць з боку грамадзянства да працы яе — незвычайная. Асабліва цікавіцца канферэнцыяй наша студэнцтва і настаўніцтва. Шмат асветнікаў прыехала паслухаць канферэнцыю з раёнаў. Выступаюць не толькі людзі навукі, кабінетныя вучоныя, а і шэраговыя беларускія культурнікі».

Значэнне канферэнцыі было ў тым, што яна ўпершыню пры шырокім удзеле айчынных і замежных спецыялістаў абагульніла дасягненні беларускай філалагічнай навукі і намеціла галоўныя кірунні далейшага развіцця.

Хоць прынятыя канферэнцыяй пастановы аб рэформе беларускага правапісу і графікі не атрымалі сілы закону, аднак некаторыя з іх потым былі ўлічаны пры распрацоўцы правапісных праектаў 1930 і 1933 гг. На аснове апошняга праекта СНК БССР у 1933 г. прыняў вядомую пастанову «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», якая ўпершыню афіцыйна ўзаконіла правапісныя і некаторыя граматычныя нормы беларускай літаратурнай мовы.

*Літ.:* Працы Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мн., 1927. *І. К. Германовіч.*

## АКСАМІТАЎ АНАТОЛЬ СЦЯПАНАВІЧ



Беларускі мовазнавец А. С. Аксамітаў нарадзіўся 17 ліпеня 1926 г. ў Гомелі. У 1951 г. скончыў БДУ. Доктар філалагічных навук (1984). У 1952—91 гг. у Інстытуце мовазнаўства, з 1992 г.— на кафедры беларускай мовы пры Прэзідыуме АН Беларусі.

Галоўнымі аб'ектамі навуковых даследаванняў А. С. Аксамітава з'яўляюцца беларуская фразеалогія, фразеаграфія і мова беларускага фальклору. Гэтым праблемам ён прысвяціў манаграфіі «Лексіка беларускіх прыказак XIX ст. ў сувязі з агульнай праблемай фразеалогіі» (1958) і «Беларуская фразеалогія» (1978), раздзел «Беларуская фразеалогія» ў калектыўнай працы «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (1970), шэраг артыкулаў. Гэтыя працы раскрываюць нацыянальна-моўныя заканамернасці развіцця значэнняў як у асобнай адзінцы мовы, так і ў групах падобных моўных адзінак. Кніга «Беларуская фразеалогія» на прыкладзе фразеалогіі (і наогул слоўніка) асвятляе працэс самабытнага развіцця беларускай мовы. Распрацаваная А. С. Аксамітавым комплексная методыка збору і аналізу моўнага матэрыялу спалучае фразеалогію з гісторыяй матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага і суседніх з ім народаў. Фразеалогія беларускай мовы апісана ў дынаміцы. Атрыманы канкрэтныя вынікі якасных змен фразеалагічнага складу мовы на розных этапах яе развіцця, устаноўлены цэнтры фразеалагічных інавацый у межах усходнеславянскага арэала.

А. С. Аксамітаў апрацаваў фразеалагічныя адзінкі і словы са звязаным значэннем у «Беларуска-рускім слоўніку» (1962), пад яго кіраўніцтвам і пры ўдзеле падрыхтаваны «Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Я. Коласа» (1993) — першая ў славянскай фразеаграфіі праца, якая ўключае функцыянальна-семантычную і лексіка-граматычную характарыстыку мовы аднаго аўтара. У супрацоўніцтве з М. Чурак (Інстытут славяназнаўства Польскай акадэміі навук) вучоны склаў беларуска-польскі слоўнік. У шэрагу артыкулаў А. С. Аксамітаў вырашае розныя лексікаграфічныя праблемы фразеалогіі, распрацоўвае тэарэтычныя асновы ўкладання некаторых тыпаў слоўнікаў, у прыватнасці, ідэаграфічнага слоўніка, абгрунтоўвае логіка-семантычныя прынцыпы яго структуры.

Шмат увагі аддае вучоны пытанням лінгвафалькларыстыкі. Даследуючы суадносіны мовы фальклору з дыялектнай мовай і мовай мастацкай літаратуры, Аксамітаў выявіў шырокую варыянтнасць у фальклоры моўных адзінак пры надзвычайнай устойлівасці мастацка-сэнсавых і стылёвых канстант, акумулятыўнасць семантыкі фальклорнага слова (здольнасць назапашваць і гарманічна ўраўнаважваць элементы розных часавых пластоў), яго дыфузнасць (размытасць значэння), а таксама своеасаблівасць устойлівых фальклорных канструкцый (формул, клішэ, фразеалагізмаў). Прадмет асаблівай увагі даследчыка — мова беларускага вяселля, самага багатага па паэтычных і абрадавых сродках у славянскім фальклоры. Некаторыя артыкулы даследчыка прысвечаны агульным праблемам развіцця беларускага мовазнаўства: «Дасягненні і перспектывы беларускага мовазнаўства» // Навуковы зборнік. Беласток, 1974; «Інстытут мовазнаўства АН БССР» // Научно-реферативный бюллетень АНИОН АН БССР, 1980, № 56.

А. С. Аксамітаў з'яўляецца членам Міжнароднай камісіі па праблемах славянскай фразеалогіі пры Міжнародным камітэце славістаў, Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, членам рэдкалегіі міжнароднага часопіса «Славянская і агульная фразеалогія» (г. Мангейм, Германія). Удзельнік шэрага міжнародных з'ездаў славістаў і канферэнцый.

*Тв.:* Структура идеологического словаря белорусской фразеологии // Вопросы фразеологии. Ташкент, 1965; Структура фразеологического словаря и установление опорного слова: (По материалам белорусско-русского фразеологического словаря) // Вопросы фразеологии и составления фразеологических словарей. Баку, 1968; Идеографический словарь и сопоставительная фразеология: (На материале белорусского и русского языков) // Русский язык в национальной школе. 1975. № 4; Асацыятыўныя словазлучэнні ў мове беларускай вясельнай паэзіі // Бел. лінгвістыка. Мн., 1979. Вып. 16; Да пабудовы фразеалагічнага слоўніка мовы Якуба Коласа // Тамсама. Мн., 1983. Вып. 22; Мовай народа. Фразеалогія Кандрата Крапівы // Тамсама. Мн., 1986. Вып. 29; Развіццё фразеалагічнага складу мовы і літаратурная норма // Тамсама. Мн., 1987. Вып. 31; Беларуска-польскія ізафраземы // Slavia Orientalis. 1980. Nr 1—2. Аб усходнеславянска-польскіх ізафраземах // Тамсама. 1987. № 3—4; Аб адным мікраполі фразеалагічных адзінак у беларускай мове ў параўнанні з адпаведным рускім і польскім // Тамсама. 1990. № 3—4; Обряд и песни как источник образования фразеологических единиц белорусского языка//Acta Baltico-Slavica. XVI. Wrocław etc., 1984; Аб беларуска-іншаславянскіх ізафраземах // Z problemów frazeologii polskiej i słowiańskiej Wrocław etc., 1985. Т. 2; Некаторыя асаблівасці гістарычнага развіцця беларускай фразеалогіі // Тамсама, Wrocław etc., 1988. Т. 4; Семантычныя асаблівасці ступеней параўнання ў фразеалагічных адзінках беларускай мовы // Zagadnienia kategorii stopnia w językach słowiańskich. Warszawa, 1990. Т. 5; Zu einigen besonderheiten der belorussischen Phraseologie im Vergleich zur russischen bulgarischen und polnischen // Zeitschrift für Slawistik. 1992. № 2.

*Літ.:* Бердні к С. К. Анатоль Сцяпанавіч Аксамітаў: Да 60-годдзя з дня нараджэння // Бел. лінгвістыка. Мн., 1986. Вып. 30. *І. К. Германовіч.*

## АКТУАЛЬНАЕ ЧЛЯНЕННЕ СКАЗА

Кожны, хто вывучаў граматыку, лёгка знойдзе галоўныя члены ў сказе *Навокал снег ляжаў роўна, чыста* (І. Мележ). *Снег ляжаў* — дзейнік і выказнік, або граматычная аснова сказа, а *навокал, роўна* і *чыста* — даданыя члены, акалічнасці. Але ці супадае асноўная мэта гэтага выказвання са зместам галоўных членаў сказа? Што хацеў паведаміць нам пісьменнік: ці тое, што *снег — ляжаў*, ці тое, што *снег ляжаў — роўна, чыста?* Правільным, вядома, будзе другі адказ. Зыходзячы з гэтага прыкладу, мы можам сцвярджаць, што фармальна-сінтаксічны падзел сказа можа не супадаць з яго сэнсава-сінтаксічным чляненнем. Гэта моўная з'ява была першапачаткова заўважана і апісана яшчэ ў мінулым стагоддзі. Але прайшоў значны час, пакуль даследчыкі мовы (і найперш чэшскі

лінгвіст В. Матэзіус) зразумелі, што яны маюць справу з істотным законам маўлення, з пэўнымі правіламі руху нашай думкі, калі яна атрымлівае моўнае выражэнне і паслядоўна, лінейна разгортваецца, утвараючы звязны тэкст.

Пры адной і той жа фармальна-сінтаксічнай будове сказ здольны перадаваць розную актуальную, г. зн. істотную ў гэтым кантэксце, важную ў момант гаворкі інфармацыю. Адно пачуць ці прачытаць *Мужчыны выйшлі на двор з хаты* (Я. Колас) і іншае — *На двор з хаты выйшлі мужчыны.* Галоўныя і даданыя члены, сінтаксічныя сувязі паміж імі тыя ж самыя, але сэнс, інфармацыйная напоўненасць сказа мяняюцца: з другога варыянта вынікае, што, відаць, у хаце былі не толькі мужчыны, бо менавіта яны выйшлі з хаты. Як жа атрымліваецца, што аднымі і тымі ж словамі, пры тых жа сінтаксічных сувязях паміж імі мы здольны перадаваць розныя звесткі? Справа ў тым, што ў жывым маўленні кожны сказ атрымлівае пэўнае камунікатыўнае заданне, ператвараецца ў канкрэтнае выказванне з акрэсленым сэнсам. Выказванне (у адрозненне ад сказа) заўсёды звязана з сітуацыяй зносін, з кантэкстам, якія пэўным чынам аб'ядноўваюць субяседнікаў. У іх ужо ёсць агульныя звесткі, актуалізаваныя веды, адштурхоўваючыся ад якіх, яны могуць весці гутарку далей. Субяседнікі чакаюць адзін ад аднаго, каб на падставе вядомага было паведамлена і штосьці новае. Гутарка нярэдка і пачынаецца з падобных мэтанакіраваных пытанняў: *Што новага? Як жывеш? Дзе быў?* Чаканне новай інфармацыі, патрэба ў ёй задавальняюцца тым, што кожны, хто гаворыць, будуе сваю рэпліку так, каб у сказе была агульная для субяседнікаў тэма выказвання і абавязкова штосьці новае на гэту тэму, так званая рэма выказвання, напрыклад: *Дзе ты быў?* (ведаю, што *недзе быў* — тэма, але *дзе?* — нераскрытая рэма) — *Я быў у кіно* (*у кіно* — рэма, а тэма ў дыялогу дзеля эканоміі моўных сродкаў і надання гутарцы дынамізму нярэдка апускаецца). Падзел сказа на тэму, або зыходны пункт выказвання, і рэму, або тое, што паведамляецца аб тэме, мэту выказвання, называецца актуальным чляненнем сказа. Рэма служыць камунікатыўным цэнтрам сказа, якраз у ёй выражаецца камунікатыўнае заданне, галоўная мэта паведамлення. Як і ўсе моўныя значэнні, тэма і рэма, іх проціпастаўленне павінны быць перададзены пэўнымі сродкамі. Да іх адносяцца: лагічны націск як пэўны элемент інтанацыі (прасадычныя сродкі), парадак слоў (сінтаксічныя сродкі), часціцы, займеннікі, прыслоўі, а таксама сінонімы (лексічныя сродкі). Інтанацыя выкарыстоўваецца найперш у вусным маўленні, а парадак слоў адыгрывае асаблівую ролю ў пісьмовым. Звернемся да прыкладаў. Сказ *Хлопчык пайшоў у школу* дае магчымасць пабудаваць не менш як 3 выказванні з розным актуальным чляненнем (словы, якія ўтвараюць рэму, падаюцца разрадкай): *Хлопчык пайшоў у школу* (як адказ на пытанне *Хто пайшоў у школу?*), або *Хлопчык пайшоў у школу (Хлопчык ужо пайшоў ці яшчэ дома?)*, або *Хлопчык пайшоў у школу (Куды пайшоў хлопчык — у кіно, да сябра ці ў школу?)*. Ва ўсіх 3 выпадках для выканання камунікатыўнага задання быў выкарыстаны лагічны (сэнсавы) націск.

Якую ролю ў актуальным чляненні адыгрывае парадак слоў, лёгка зразумець, калі параўнаць 2 варыянты сказаў, напрыклад: *Дзьмуў густы і парывісты вецер* і *Вецер дзьмуў густы і парывісты.* Або: *Не чытаў я гэтай кніжкі* і *Гэтай кніжкі я не чытаў.* Лексічныя сродкі актуальнага члянення адыгрываюць сваю пэўную ролю, напрыклад: *Андрэй быў у лесе.* — *Нават Андрэй быў у лесе* (часціца *нават* указвае на камунікатыўны цэнтр другога сказа, яго рэму). Або: *Усе куплялі падарункі да свята. Каця купіла маме кветкі. Яны былі незвычайна прыгожыя.* Займеннік «яны» замяшчае рэму папярэдняга сказа, якая ў апошнім сказе стала вядомай інфармацыяй, тэмай. Да лексічных сродкаў трэба аднесці і паўтор слова *(Усе глядзелі на Сяргея. Сяргей маўчаў)* або замену яго сінонімам *(Дзеці пабеглі. Паімчаў за імі і Коля).* Вельмі часта ўсе віды сродкаў перадачы актуальнага члянення сказа выкарыстоўваюцца сумесна, ва ўзаемадзеянні. Напрыклад: *Вучылася Наташа ўвесь час выдатна і выконвала ўсё, што гаварылі настаўнікі. Сказалі: трэба займацца фізкультурай, і яна штодня рабіла зарадку. Дзякуючы гэтаму хутчэй за ўсіх бегала, вышэй скакала, выдатна плавала* (І. Шамякін). «Прырашчэнне» інфармацыі адбываецца тут дзякуючы таму, што выкарыстоўваюцца розныя сродкі выражэння актуальнага члянення: інверсія *(Вучылася Наташа)*, эліпсіс, або скрыты паўтор *(гаварылі настаўнікі. Сказалі...* — апушчана *настаўнікі)*, займеннікавы паўтор *(Наташа... яна, рабіла зарадку — дзякуючы гэтаму)*, сінанімічная замена *(займалася фізкультурай — рабіла зарадку — бегала, скакала, плавала)*, адпаведная інтанацыя. Звычайны парадак адзінак актуальнага члянення: тэма — рэма. У экспрэсіўных выказваннях рэма можа папярэднічаць тэме. Гэта патрабуе пры вымаўленні (чытанні) асобага, узмоцненага націску і называецца эмфазай, напрыклад: *З пушчай і яе жыхарамі Пятрусь быў знаёмы* (Т. Хадкевіч).

Актуальнае чляненне найбольш выдавочна ў развітых сказах, уключаных у пэўны кантэкст і звязаных з сітуацыяй маўлення. Ёсць, аднак, сказы, у якіх адсутнічае проціпастаўленне тэмы і рэмы, яны называюцца камунікатыўна нерасчлянёнымі. У іх няма лагічнага націску (хоць прысутнічае фразавы націск як неад'емны элемент інтанацыі). Мастацкі тэкст і пачынаецца, як правіла, нерасчлянёным сказам: *Над вадою адзінютка // Пахілілася вярбіна* (Я. Колас), які як бы ўводзіць першую тэму. Такое ўвядзенне тэмы нярэдка ажыццяўляецца вельмі прыдатнымі для гэтага намінатыўнымі сказамі: *Ноч. Халодная зямлянка...* (П. Глебка). Валоданне сродкамі актуальнага члянення сказа вельмі істотнае для выразнага, асэнсаванага выражэння думкі, яе камунікатыўнага разгортвання, для правільнага разумення тэксту.

*Літ.:* Матезиус В. О так называемом актуальном членении предложения. Пражский лингвистический кружок. М., 1967; Николаева Т. М. Актуальное членение — категория грамматики текста // Вопросы языкознания. 1972. № 2; Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976; Золотова Г. А. Коммуникативные аспекты русского синтаксиса. М., 1982; Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986.

*А. Я. Міхневіч.*

## АКТЫЎНАЯ І ПАСІЎНАЯ ЛЕКСІКА

Словы, якімі часта карыстаюцца ў гаворцы, публічных выступленнях, пісьмовых тэкстах, належаць да актыўнай лексікі. Яны прывычныя і зразумелыя носьбітам мовы. Напрыклад, словамі *краіна, воля, радасны, спагадлівы, шчырасць* беларусы карыстаюцца на працягу стагоддзяў, без іх не абысціся ў моўных зносінах і сёння. Такія словы ўваходзяць у актыўны лексічны запас жыхароў розных мясцін Беларусі, якія маюць разнастайны занятак, неаднолькавую спецыяльнасць. Пасіўную лексіку складаюць словы рэдкаўжывальныя, што маюць адценне ўстарэласці або навізны. Такія словы не ўжываюцца штодзённа, хоць зразумелыя для нас. Звычайна гавораць пра актыўную і пасіўную лексіку асобных людзей ці пэўнай эпохі.

Словы, якімі чалавек часта і свабодна карыстаецца, уваходзяць у яго актыўны лексічны запас. Найперш гэта агульнанародныя словы, напрыклад: *бацька, вецер, мова, працаваць, дом, добры, прыгожа, там* і інш. У мове асобных груп людзей актыўна ўжываюцца спецыяльныя словы. Натуральна, што дактары свабодна карыстаюцца медыцынскай тэрміналогіяй *(дыягназ, арытмія, антыбіётык, кардыяграма)*, крытыкі — філалагічнай *(метафара, градацыя, эпас, харэй)*, сталяры і пчаляры ўжываюць прафесіянальныя назвы *(гарбач,*

*шархебель, калёўка; стайла, лазбень, матка)*. Адметнасць слоўніка асобных людзей залежыць ад іх узросту, культурнага і адукацыйнага ўзроўню, спецыяльнасці і роду дзейнасці і нават ад таго, дзе жыве чалавек, якія кнігі, часопісы, газеты чытае. Вясковец, безумоўна, актыўна карыстаецца словамі, якія абазначаюць рэаліі прывычнага яму побыту *(сенажаць, камбайн, павець, араць)*; спартсмен часцей за іншых ужывае словы *каманда, трэнер, зборы, спаборніцтва*; педагог — *бібліятэка, кансультацыя, факультатыў*. Значны актыўны слоўны запас маюць пісьменнікі, журналісты, філолагі.

Словы, якія чалавек звычайна не ўжывае, але пазнае ў тэксце і больш ці менш дакладна разумее, уваходзяць у яго пасіўны слоўнік. Я. Купала ў публіцыстычным артыкуле «Ці маем мы права выракацца роднай мовы» пісаў: «Для мовы, для гэтай вызіцелькі душы і думак чалавека, не патрэбна ні скіпетраў, ні каронаў, як не патрэбна для сонца якога-небудзь яшчэ пазалочанага абруча, рамак. Сонца само па сабе адна аздобнасць — і золата, і брыльянт». Купалаву думку асэнсуе кожны, нават і той, хто толькі прыблізна ведае, што такое *скіпетр*, актыўна не карыстаецца абстрактным словам *аздобнасць* і канкрэтным *брыльянт*.

Актыўная і пасіўная лексіка пэўнай эпохі выяўляе грамадскія, эканамічныя, культурныя змены ў жыцці. Так, у 1920-я гады актыўнымі сталі спачатку нязвыклыя і не заўсёды зразумелыя, а потым прывычныя словы *камбед, калектывізацыя, нэп, стахановец*. Прайшоў час, і яны выйшлі з актыўнага ўжытку.

З развіццём навукі, тэхнікі, культуры з'яўляюцца новыя прылады працы, прадметы побыту, грамадскія і навуковыя ідэі, плыні, аб'яднанні. Для абазначэння новых паняццяў узнікаюць і новыя словы — н е а л а г і з м ы (гл. **Неалагізмы**). Яны ўваходзяць у пасіўны запас лексікі да таго часу, пакуль не становяцца агульнаўжывальнымі. Калі рыхтавалася БелСЭ, Тэрміналагічная камісія, у якую ўваходзілі вядомыя беларускія вучоныя і грамадскія дзеячы, дала права на жыццё словам *радовішча, горназдабыўны, адорвень* (параўн. *выкапень, апоўзень*), якія адпавядаюць правілам беларускага словаўтварэння і «духу мовы» (Я. Колас). У наш час словы *касманаўт, універсам, дыскатэка* прывычныя і агульнаўжывальныя, а словы *касмабачанне, гагарыніт, акванаўт, атамабіль, гідрапоніка* — неалагізмы.

Майстрам слова належыць вялікая роля ў развіцці літаратурнай мовы. Яны ўводзяць у актыўны ўжытак каларытныя словы з народных гаворак. Замацоўваюцца ў літаратурнай мове і некаторыя аўтарскія неалагізмы. Гадоў шэсцьдзесят назад у нашай літаратурнай мове не было слоў *дабрабыт, ажыццяўляць, мілагучнасць, мэтазгоднасць, адлюстраванне*. Гэта Дубоўкавы наватворы. Слову ***немаўля*** пралажыў дарогу ў літаратурную мову М. Лужанін. Я. Колас прапанаваў называць ***навучэнцамі*** тых, хто вучыцца ў тэхнікумах і вучылішчах. Напачатку наватворамі карысталіся нясмела. Цяпер гэтыя словы агульнавядомыя, актыўныя.

Значную частку пасіўнай лексікі складаюць устарэлыя словы (гл. **Устарэлыя словы**). Іх шмат у мастацкіх творах пра мінулае Беларусі, у гістарычных навуковых працах: *дзядзькаванне, магнат, земства, валока, дукат, кроніка, гарнец, тлумач* і інш. Гэтымі і падобнымі словамі мы сёння не карыстаемся, але некаторыя ўспрымаем у звязным тэксце, хоць часам і разумеем іх прыблізна.

Устарэлыя словы могуць вяртацца з пасіўнага слоўніка ў актыўны. Апошнім часам актывізаваліся словы *дойлід, прапаршчык, каляды, рада, талака, сябрына*. Перад Вялікай Айчыннай вайной з пасіўнага слоўніка перайшлі ў актыўны словы *адмірал, генерал, палкоўнік, маёр, капітан, лейтэнант, сяржант і інш*.

Лексіка выразна адлюстроўвае развіццё грамадства і сама паступова мяняецца, развіваецца. Кожная гістарычная эпоха мае свой актыўны і пасіўны запас слоў.

*Літ.:* К а ў р у с А. А. Культура слова. Мн., 1983; Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фразеалогія. Лексікаграфія. Фразеаграфія. Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. 2 выд. Мн., 1984; К р а с н е й В. П. Грані слова. Мн., 1986. *Г. М. Малажай.*

## АКТЫЎНЫ І ПАСІЎНЫ ЗВАРОТЫ

*Працай шліфуецца талент* — слушна сцвярджае вядомы афарызм. Але падыдзем да яго не з паэтычнымі або жыццёвымі меркамі, а з пазіцый сінтаксісу. Чым адрозніваюцца канструкцыі *Талент шліфуецца працай* і *Праца шліфуе талент?* Вельмі нялёгка адшукаць паміж імі якое-небудзь істотнае сэнсавае адрозненне, затое няцяжка ўбачыць, што назоўнік *праца* (які абазначае вытворцу дзеяння, або яго суб'ект) выступае ў адным выпадку як ускоснае дапаўненне, а ў другім — як дзейнік, а назоўнік *талент* (што абазначае прадмет, на які накіравана дзеянне, або яго аб'ект) у сваю чаргу — то як дзейнік, то як прамое дапаўненне. Пры гэтым і дзеяслоў выступае як бы ў двух варыянтах: то як прамапераходны, то як зваротны.

Суб'ект і аб'ект дзеяння — катэгорыі лагічныя; дзейнік і дапаўненне — моўныя, граматычныя. Паводле рознай перадачы лагічных катэгорый суб'екта і аб'екта ў граматычных катэгорыях дзейніка і дапаўнення, а такама паводле станавай характарыстыкі дзеяслова ў беларускай мове вылзяляюцца актыўныя і пасіўныя звароты. Такая канструкцыя сказа, пры якой суб'ект афармляецца як дзейнік, а выказнік, выражаны пераходным дзеясловам, абазначае дзеянне, накіраванае на іншы прадмет (аб'ект дзеяння), назва якога з'яўляецца прамым дапаўненнем, называецца актыўным зваротам: *Я бачыў новыя пабудовы, вясёлыя твары людзей, чароды сытай жывёлы на пашы і ўспамінаў сваё маленства* (К. Чорны); *Школу жыцця Сымонка пачаў праходзіць, маючы шэсць гадоў...* (З. Бядуля). Калі ж аб'ект афармляецца як дзейнік, выказнік выражаецца зваротнай формай дзеяслова або дзеепрыметнікам залежнага стану, а суб'ект дзеяння (асоба ці прадмет) перадаецца дапаўненнем у творным склоне, маем справу з пасіўным зваротам: *Неба засеяна бясконцым мноствам зорак*. (І. Навуменка).

Творны склон у пасіўных зваротах называюць творным дзейнага прадмета (творным суб'екта): *Што аднаму з цяжкасцю даецца, тое калектывам лёгка бярэцца* (прыказка); *Дарога сціскаецца лесам і спускаецца ў лагчыну, а потым зноў падымаецца на горку* (Я. Колас). Яго трэба адрозніваць ад творнага склону з іншымі значэннямі, напрыклад прылады дзеяння (у актыўных зваротах): *Алена хутка і звыкла варочае граблямі* (І. Мележ); *Максім памахаў нам рукою* (І. Шамякін). Творны суб'екта можа і не называцца, таму што ўтваральнік дзеяння або вядомы з папярэдняга кантэксту, або падразумяваецца: *Часамі ён [Я. Колас] намагаўся завяршыць пэўны раздзел трылогіі ў той самы дзень, калі пачынаў. Тады адпачынак адмяняўся ці пераносіўся на пазнейшы час* (М. Лужанін); *Пан Крулеўскі назначаецца павятовым камісарам, войтаў па валасцях ставяць* (Я. Колас). Адсутнасць творнага дзейнага прадмета аслабляе ў пасіўнай канструкцыі значэнне залежнасці, а часам і зусім яго ліквідуе: *Яны [лугі] скошваліся з травою разам штогод і штогод зноў засяваліся і зноў скошваліся* (К. Чорны).

Выразнасць значэння залежнасці ў пасіўных зваротах залежыць ад таго, што абазначае назоўнік — асобу ці прадмет. Найбольш ярка значэнне залежнасці выступае тады, калі аб'ект гэты —асоба.

Актыўныя звароты можна пераўтвараць у пасіўныя і, наадварот, пасіўныя ў актыўныя. Напрыклад: *Шасэйная дарога перарэзвала жытняе поле з усходу на захад.— Жытняе поле перарэзвалася шасэйнай дарогай з усходу на захад* (К. Чорны); *Неўзабаве сонечны бляск заліў поле* (Т. Хадкевіч) — *Неўзабаве поле было заліта сонечным бляскам*. Адварот-

нае пераўтварэнне: *Хутка памяшканне запоўнілася людзьмі* (М. Лынькоў).— *Людзі хутка запоўнілі памяшканне; Хмара нібы расшчапілася маланкай* (Т. Хадкевіч).— *Маланка нібы расшчапіла хмару.*

Ужыванне ў мове актыўных ці пасіўных зваротаў пэўным чынам залежыць ад стылю выказвання. Пасіўныя канструкцыі больш уласцівыя публіцыстычнаму, навуковаму, а таксама дзелавому стылям. Але нярэдка яны выкарыстоўваюцца і ў мастацкім стылі мовы.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Цікоцкі М. Практычная стылістыка беларускай мовы. Ч. 2. Мн., 1965; Гурскі М. І., Булахаў М. Г., Марчанка М. Ц. Беларуская мова. Ч. 2. 2 выд. Мн., 1968; Сучасная беларуская мова: Марфалогія. 2 выд. Мн., 1980.

*М. М. Пятрэнка.*

## АКУСТЫКА ГУКАЎ

Гукі мовы, як і большасць існуючых у прыродзе гукаў, што ўспрымаюцца органамі слыху,— гэта ваганні паветра, якія перадаюцца ў навакольным асяроддзі, дзякуючы чаму вусная мова аднаго чалавека становіцца даступнай іншым людзям, калі яны знаходзяцца на невялікай адлегласці. У выпадку, калі асобу, якая гаворыць, і слухача раздзяляе значная прастора, неабходны або ўзмацняльныя прыстасаванні, або ператварэнне паветраных ваганняў у электрычныя (тэлефон), якія можна перадаваць на любую адлегласць. Акустыка (ад грэч. akustikos слыхавы) гукаў — гэта гукавыя хвалі, якія ўтвараюцца ў выніку артыкуляцыі (гл. **Артыкуляцыя гукаў**).

Крыніцамі гукаў мовы могуць быць: 1) галасавыя звязкі, якія ствараюць складаныя, амаль перыядычныя (квазіперыядычныя) ваганні паветра,— галасавая крыніца; 2) моўныя органы, што могуць утвараць змычку, пры размыканні якой утвараецца рэзкі і кароткі па часе шум-выбух,— імпульсна-шумавая крыніца; 3) моўныя органы, пры зближэнні якіх утвараецца шчыліна, што забяспечвае ўзнікненне працяглага шуму,— шумавая крыніца. Пры ўтварэнні кожнага асобнага гука можа дзейнічаць або адна з гэтых крыніц, або іх сукупнасць. Так, галосныя гукі ўзнікаюць у выніку ваганняў галасавых звязак, а звонкія змычна-шчылінныя [дз], [дж] — ваганняў галасавых звязак, размыкання змычкі органаў мовы, праходу паветра праз вузкую шчыліну. Пры дзеянні галасавой крыніцы гуку для фарміравання гукавой хвалі істотную ролю адыгрываюць умовы яе выпраменьвання з ротавай поласці. Пры ўтварэнні галосных рот раскрыты і гукавая хваля выпраменьваецца свабодна. Ваганні паветра ў акаляючым асяроддзі моцныя. Пры ўтварэнні звонкіх выбухных зычных гукаў [б], [д], [г] *(ганак)* галасавыя звязкі працуюць з пачатку ўтварэння змычкі, але гук можа выпраменьвацца толькі праз касцявыя і мышачныя тканкі, бо праход з рота перакрыты змычкай органаў мовы. А гэта значыць, што ў акаляючым асяроддзі будуць слабыя ваганні паветра. Утварэнне насавых [м], [н] звязана таксама са змычкай органаў мовы ў ротавай поласці, але адначасова адкрываецца праход праз поласць носа і гукавая хваля, не сустракаючы значнай перашкоды, атрымлівaецца значна больш моцнай, чым у выбухных. Яна па сваёй сіле набліжаецца да велічыні гукавой хвалі галосных, а часта бывае і роўная з ёй, асабліва, калі пры ўтварэнні галосных рот раскрываецца не вельмі шырока ([і], [у], [о]).

Любы гук мовы, утвораны крыніцамі гуку, характарызуецца амплітудай і часам. Частата вызначае хуткасць ваганняў. Кожны гук мовы складаецца з вялікай колькасці адначасовых ваганняў са сваёй уласнай хуткасцю, самае павольнае з якіх (нізкая частата, асноўны тон) вызначае вышыню гука. Амплітуда — гэта размах ваганняў, які аказвае рашаючы ўплыў на ўспрыманне моцнасці гукаў. Час характарызуе працягласць таго або іншага фрагмента гука.

Праходзячы праз ротавую і насавую поласці, якія адыгрываюць ролю рэзанатараў (узмацняльнікі гуку) або антырэзанатараў (паслабляльнікі гуку), асобныя частоты гукавой хвалі, што ўтворана крыніцай гуку, становяцца больш моцнымі, іншыя паслабляюцца або зусім падаўляюцца. Асабліва наглядна гэта фільтрацыя відаць на галосных гуках, якія складаюцца з некалькіх узмоцненых частотных палос. Іх называюць фармантамі. Фармант у галосных можа быць да сямі, але выключнае значэнне маюць першая і другая, якія і дазваляюць вызначыць кожны канкрэтны галосны на слых. Частата фармант у кожнага галоснага свая. Гукавая хваля зычных [л], [л'], [н], [н'], [м], [м'], [ў], [й] мае таксама фармантную будову. Пры дзеянні імпульсна-шумавой і шумавой крыніц у выніку праходу гукавой хвалі праз ротавую поласць вызначаюцца частотныя палосы шуму, адметныя для кожнага канкрэтнага зычнага.

Змена крыніцы гуку і ўмоў выпраменьвання гукавой хвалі пры маўленні расчляняе моўную плынь на ўчасткі, якія называюцца сегментамі (ад лац. segmentum абрэзак, адрэзак). Кожны гук складаецца з аднаго або некалькіх сегментаў. Калі гук складаецца з некалькіх сегментаў, то адзін з іх з'яўляецца вызначальным, без якога не можа існаваць гук. У беларускай мове такіх сегментаў 10.

Глухая змычка — гэта кароткачасовы (да дзвюх дзесятых долі секунды) перапынак у гучанні, за якім павінен ісці выбух. Але рэальна яго можа і не быць. Частотныя ўласцівасці выбуху ў гэтым выпадку перадаюцца становішчам фармант канцавога ўчастка папярэдняга галоснага або пачатковага ўчастка наступнага галоснага. Глухая змычка ўласціва глухім выбухным зычным [п], [п'], [т], [к], [к'].

Звонкая змычка ў адрозненне ад глухой характарызуецца наяўнасцю слабых ваганняў, што ўзнікаюць у выніку дзеяння галасавых звязак і выпраменьвання праз мяккія і касцявыя тканкі. Яна характэрна для звонкіх выбухных зычных [б], [б'], [д], [г], [г']. Пачынаецца разам з утварэннем змычкі органаў мовы і ў пачатку крыху больш моцная, чым у канцы, а, напрыклад, у нямецкай мове галасавыя звязкі пачынаюць вагацца з пэўнай затрымкай адносна ўтварэння змычкі, што для нас і выклікае цяжкасці ў адрозненні [б] ад [п], [д] ад [т] і г. д.

Выбух — гэта вельмі кароткі ў часе (2—3 сотыя долі секунды) рэзкі шум, які суправаджае, як правіла, глухую і звонкую змычкі. У тых выпадках, калі шум ёсць, звонкія і глухія выбухныя зычныя называюць эксплазіўнымі, а калі няма яго — імплазіўнымі. Напрыклад, у пачатку слова ўсе выбухныя з'яўляюцца эксплазіўнымі, у некаторых спалучэннях зычных (*дн, мб* і г. д.) імплазіўнымі.

Санорная змычка вызначаецца перыядычнасцю ваганняў і досыць значнай іх сілай, бо гукавая хваля свабодна выпраменьваецца праз насавую поласць ([м], [м'], [н], [н']) або бакавы праход ([л], [л']). У выніку гэтыя гукі маюць фарманты і не маюць у сваім складзе шуму, таксама як [ў], [й].

Галосныя сегменты вызначаюцца самай значнай велічынёй перыядычных ваганняў, бо гукавая хваля, утвораная галасавымі звязкамі, свабодна выходзіць з ротавай поласці. Другая прыкмета галосных сегментаў — фарманты. Дрыжачы сегмент характарызуецца тым, што яму папярэднічаюць перыядычныя ваганні, якія па велічыні не адрозніваюцца ад ваганняў галосных, а затым у выніку збліжэння языка з паднябеннем яны істотна памяншаюцца аж да ўтварэння шуму. Потым зноў наступае ўзмацненне ваганняў. Гэты сегмент уласцівы зычнаму [р]. Глухі фрыкатыўны сегмент — гэта шум, які мае значную працягласць (некалькі дзесятых долі секунды) з паступовым нарастаннем, а затым з затуханнем. Ён адпавядае глухім фрыкатыўным зычным [ф], [ф'], [с], [с'], [ш], [х], [х']. Асноўнай рысай звонкага фрыкатыўнага сегмента з'яўляецца наяўнасць побач з шумам нізкачастотных

перыядычных ваганняў, утвораных галасавымі звязкамі. Таму сіла шуму звонкіх фрыкатыўных [в], [в'], [з], [з'], [ж], [г], [г'] меншая, чым глухіх. Глухі афрыкатыўны сегмент такі ж, як і глухі фрыкатыўны, толькі з рэзкім нарастаннем пачатку, як пры выбуху. Па працягласці ён звычайна ў 2—2,5 раза карацейшы за фрыкатыўны. Яму абавязкова папярэднічае кароткая глухая змычка. Гэтыя два сегменты характэрны для глухіх афрыкат [ц], [ц'], [ч]. Звонкі афрыкатыўны сегмент адрозніваецца ад глухога ў двух аспектах. Па-першае, яму папярэднічае звонкая змычка, па-другое, шум у ім суправаджаецца нізкачастотнымі перыядычнымі ваганнямі, як у звонкага фрыкатыўнага сегмента. Ён уласцівы звонкім афрыкатам [дз], [дз'], [дж].

Дасягнуўшы вуха слухача, у пэўнай паслядоўнасці сегменты ўспрымаюцца і аналізуюцца слыхавой і вышэйшай нервовай сістэмай і, калі чалавек валодае мовай, арганізуюцца ў членараздзельныя гукі, што і дае людзям магчымасць дасягнуць узаемнага разумення. Вусная мова пабудавана такім чынам, што кожны сегмент мае не толькі інфармацыю, неабходную для яго распазнавання, але і дапамагае распазнаваць суседнія сегменты. Таму часта адсутнасць таго або іншага сегмента або нават рада сегментаў, цэлых гукаў слухачом не заўважаецца. Гэта ўласцівасць акустычнай будовы вуснай мовы забяспечвае яе ўспрыманне нават у неспрыяльных умовах (пры наяўнасці шуму).

Вывучэнне акустыкі гукаў мовы дало магчымасць стварыць прыстасаванні, якія пераўтвараюць вусную мову ў зрокавыя сігналы, што дазваляе больш паспяхова вучыць глуханямых, навучаць замежнай мове, ставіць літаратурнае вымаўленне. На аснове акустычных уласцівасцей гукаў мовы медыкі вызначаюць вастрыню слыху і некаторыя захворванні органаў слыху. Акустычныя ўласцівасці гукаў выкарыстоўваюцца пры стварэнні машын, якія могуць чытаць тэкст (сінтэзатары мовы), канструяванні слыхавых апаратаў для людзей з аслабленым слыхам.

*Літ.:* П а д л у ж н ы А. І. Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы. Мн., 1977; Фанетыка беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1989. *А. І. Падлужны.*

## АКЦЭНТАЛАГІЧНЫЯ НОРМЫ

Як правільна сказаць па-беларуску: *былá* ці *былa, слáбы* ці *слабы́, вýгал* ці *вугóл, нéсці* ці *нясці́?* Адзін з акцэнталагічных варыянтаў, якія існуюць у мове ў пэўную эпоху, лічыцца акцэнталагічнай нормай. Пры гэтым выбраны варыянт павінен быць найбольш пашыраным у моўным калектыве, функцыянальна і сістэмна апраўданым.

Пытанне пра акцэнталагічную норму ў кожным канкрэтным выпадку вырашаецца на аснове ўліку ўсіх фактараў, ад якіх можа залежаць націск. Крытэрыем пры выбары нормы ў першую чаргу павінна служыць літаратурная традыцыя — даўнасць і частата ўжывання таго ці іншага націску. У мове нарматыўным можа лічыцца не кожны націск, а толькі той, які прайшоў праверку часам. Па-другое, націск гэты павінен быць замацаваны ў лепшых творах літаратуры і лепшых узорах вуснага маўлення. Патрэбна ўлічваць і націск, які пераважае ў дыялектнай мове, але гэты фактар трэба звязваць з першым, бо не заўсёды націск, які пераважае ў дыялектнай мове, лічыцца літаратурным (параўнайце: *крапівá* і *крапíва, высóка* і *вы́сака* і інш.).

Адметнай рысай моўнай нормы, у тым ліку і акцэнталагічнай, з'яўляецца яе ўстойлівасць. Але мова няспынна развіваецца, узбагачаецца новымі словамі, таму і норма не можа быць назаўсёды нязменнай. Разам з мовай развіваецца і норма. У розныя эпохі акцэнталагічныя нормы не аднолькавыя.

У сучаснай беларускай, як і ў іншых мовах, існуе вялікая колькасць акцэнталагічных варыянтаў — слоў, якія маюць аднолькавае значэнне і ў некаторых выпадках аднолькавае напісанне і адрозніваюцца толькі націскамі. Сярод іх трэба вылучаць варыянты, якія знаходзяцца ў межах нормы (нарматыўныя ці пазастылёвыя): *жнівó* і *жнíва, галлё* і *гóлле, зáгарадка* і *загарóдка, насланнё* і *наслáнне* і інш., і варыянты, адзін з якіх з'яўляецца нарматыўным, а іншыя — ненарматыўныя: *гóлуб — галýб, знахáр — зна́хар, бры́дкі — брыдкí,вýдзіць — вудзíць* і інш. Некаторыя з гэтых варыянтаў дыялектныя, іншыя — устарэлыя. Яны часта выкарыстоўваюцца ў творах мастацкай літаратуры для характарыстыкі мовы персанажаў.

З-за таго, што ў мове існуе вялікая колькасць акцэнталагічных варыянтаў, і з-за неабходнасці выбару і ўзнікае вострая праблема акцэнталагічнай нарматыўнасці маўлення. Новая норма звычайна ўстанаўліваецца ў выніку высвятлення аднаго з варыянтаў, але бывае і так, што нарматыўнымі становяцца абодва варыянты. Гэта мы бачым на прыкладзе назоўнікаў *жнівó* і *жнíва*. Яшчэ ў 1960-я гады нормай лічылася форма *жнівó* (гл. «Беларуска-рускі слоўнік», 1962). «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 2, 1978) і «Слоўнік беларускай мовы» (1987) прыводзяць ужо формы *жнівó* і *жнíва* як раўнапраўныя акцэнталагічныя варыянты. У паэтычных творах бывае, што варыянтныя формы ўжываюцца адным і тым жа паэтам так, як таго патрабуе рытміка твора. Параўнайце ў Я. Коласа: *Вясна і лета — яго свята, // яго жыццё, яго жнівó* («Сымон-музыка») і *Надыдзе ж час, іх будзе жніва, // другія прыйдуць да іх дні* («Рыбакова хата»). Часам размоўныя, дыялектныя варыянты становяцца нарматыўнымі, што сведчыць аб пераацэнцы акцэнталагічных норм *(наслáнне* і *насланнё).*

Акцэнталагічная норма не дзеліць усе варыянты толькі на правільныя і няправільныя. Правільны ў адных умовах маўлення (напрыклад, у бытавым дыялогу), гэты варыянт можа быць зусім не да месца ў іншых (напрыклад, у навуковым выступленні). Калі паглядзець у слоўнік, то можна заўважыць, што многія словы прыводзяцца з паметамі «разм.», «абл.», «спец.», «уст.». Некаторыя ўспрымаюць гэтыя паметы як забаронныя. Але гэта не так. Паметы адлюстроўваюць сапраўднае ўжыванне слоў у мове, яны дапамагаюць правільна выкарыстоўваць слова. Мы не здзівімся, калі пачуем у гутарцы двух медыкаў слова *íнсульт* (яно лічыцца прафесіянальным варыянтам), але ў дакладзе, паведамленні гэта будзе расцэньвацца як парушэнне акцэнталагічнай нормы.

На акцэнталагічную нарматыўнасць маўлення ўплывае характар націску ў беларускай мове, у прыватнасці яго разнамеснасць і рухомасць, таму важна мець на ўвазе не толькі націск у пэўнай асобнай словаформе, але і ў цэлай акцэнталагічнай парадыгме. Параўнайце акцэнталагічныя парадыгмы слоў *óрдэн* і *марóз:*

| Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|
| Н. *óрдэн* | *óрдэны* |
| Р. *óрдэна* | *óрдэнаў* |
| Д. *óрдэну* | *óрдэнам* |
| В. *óрдэн* | *óрдэны* |
| Т. *óрдэнам* | *óрдэнамі* |
| М. *(аб) óрдэне* | *óрдэнах* |

| Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|
| Н. *марóз* | *маразы́* |
| Р. *марóзу* | *маразóў* |
| Д. *марóзу* | *маразáм* |
| В. *марóз* | *маразы́* |
| Т. *марóзам* | *маразáмі* |
| М. *(аб) марóзе* | *маразáх* |

Вызначыць націск у словах празаічнага тэксту не вельмі проста. Вершаваныя ж творы з'яўляюцца важнай крыніцай для вывучэння націску. Акцэнталагічныя нормы найчасцей захоўваюцца ў мове паэзіі, але бываюць выпадкі, калі і ў вершаваным творы мы заўважаем адхіленні ад сучасных акцэнталагічных норм. Гэта звычайна адлюстраванне старых (тых, якія былі нарматыўнымі ў мінулыя часы) ці дыялектных форм. Параўнайце: *Як рэпу грыз — даруй грэх, божа! // Не гаварыў, а сек* ***языкáм!*** (Я. Колас); *Лёг на небе шлях Млечны, шлях злепленых зорак, //* ***Паясóм****-серабром без канца і пачатку* (Я. Купала).

Бывае, што і ў сучасных творах для адлюстравання гістарычных падзей, для характарыстыкі эпохі, таго ці іншага персанажа пісьменнікі наўмысна выкарыстоўваюць старыя варыянты націску. Але літаратурная мова патрабуе строгага адбору, таму з вялікай колькасці акцэнталагічных варыянтаў толькі некаторыя становяцца нормай. Побач з варыянтамі, якія знаходзяцца ў межах нормы, існуе і вялікая колькасць адхіленняў ад яе, ці так званых акцэнталагічных моўных памылак. За межамі літаратурнай нормы знаходзяцца такія словы, як *дакýмент, магáзін, гéктар, цэнтнéр* і інш.

Акцэнталагічныя правілы найчасцей ахопліваюць цэлыя групы слоў або форм слоў. Так, шматлікія запазычанні з французскай мовы маюць націск на апошнім складзе (*абанемéнт, кампліме́нт, асартымéнт* і інш.) і гэта адлюстроўвае якраз асаблівасці той мовы, адкуль гэтыя словы прыйшлі да нас. Такую групу слоў можна назваць лексіка-акцэнталагічнай, а сукупнасць такіх форм як *несяцé, везяцé, льяцé, жняцé* і пад.— марфолага-акцэнталагічнай.

Пры выбары акцэнталагічнага варыянта трэба памятаць, што націск у беларускай мове мае і фанематычную функцыю, г. зн. з ім звязаны сэнс слова (*кáра — кара́, пры́мус — прымýс, вáраны — вараны́, мáрыць — мары́ць*).

Сучасныя беларускія акцэнталагічныя нормы знаходзяцца пад пэўным уплывам націску ў рускай мове. Гэтым можа быць растлумачана парушэнне акцэнталагічных норм у маўленні. Параўнайце: рус. *вéрба, ольхá, талáнт, дóчка* — бел. *вéрба* (замест *вярбá*), *альхá* (замест *вóльха*), *талáнт* (замест *тáлент*), *дóчка* (замест *дачкá*).

Акцэнталагічныя нормы адлюстроўваюцца ва ўсіх слоўніках. Таму «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» можа выкарыстоўвацца і як акцэнталагічны даведнік.

Захаванне акцэнталагічных норм — адзін з істотных бакоў культуры маўлення ў цэлым.

*Літ.*: Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1987; Бірыла М. В. Націск назоўнікаў у сучаснай беларускай мове. Мн., 1986; Лобан М. П. Націск у назоўніках з невытворнай асновай у сучаснай беларускай літаратурнай мове // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 4.

*Л. П. Кунцэвіч.*

## АЛГАРЫТМІЧНЫЯ МОВЫ

Алгарытмічная мова — гэта фармальная мова, знакавая сістэма абазначэнняў для запісу алгарытмаў. Алгарытм — зразумелае і дакладнае прадпісанне выканаўцу здзейсніць канечную паслядоўнасць дзеянняў, накіраваную на атрыманне выніку. Алгарытмічная мова дае магчымасць складаць праграмы для выканання машынай. У вылічальнай машыне ўся інфармацыя прадстаўлена лічбавымі кодамі. Сукупнасць гэтых кодаў утварае машынную мову, якая называецца мовай таму, што з'яўляецца сродкам зносін чалавека з ЭВМ. Алгарытм, запісаны на машыннай мове, гэта праграма дзеянняў, што падаюцца ў выглядзе каманд. Каманда змяшчае звесткі пра тое, якую аперацыю і пад якімі велічынямі трэба выканаць. Складанне праграмы і ёсць праграмаванне.

Запіс праграм у кодах машыннай мовы — працэс працаглы і працаёмкі. Першую электронную вылічальную машыну ЭНІАК, пабудаваную ў 1946 г. ў ЗША, рыхтавалі да работы некалькі дзён, набіраючы праграму на камутацыйнай дошцы, а рашэнне задачы цягнулася ўсяго некалькі мінут. Рост хуткасці дзеяння, павелічэнне аб'ёму памяці ЭВМ, пашырэнне кола карыстальнікаў запатрабавалі сродкаў аўтаматызацыі праграмавання. З'яўленне ў 1949 г. ў Англіі машыны ЭДСАК з праграмай, што захоўвала памяць, і ў 1951 г. ў ЗША машыны ЮНІАК, здольнай апрацоўваць алфавітную інфармацыю, стварыла перадумовы з'яўлення сімвалічных алгарытмічных моў. Першай алгарытмічнай мовай, якая атрымала шырокае распаўсюджанне, стала ФАРТРАН, распрацаваная ў ЗША у 1956 г.

Адрозніваюць машынна-арыентаваныя алгарытмічныя мовы, якія ўлічваюць асаблівасці канкрэтнай вылічальнай машыны, і машынна-незалежныя алгарытмічныя мовы, прызначаныя для запісу алгарытмаў безадносна да якой-небудзь ЭВМ. З-за вузкай спецыялізацыі машынна-арыентаваныя алгарытмічныя мовы знаходзяць абмежаванае прымяненне.

Машынна-незалежныя алгарытмічныя мовы даюць больш простыя сродкі апісання задач, чым машыннаарыентаваныя. Але праграма на алгарытмічнай мове непасрэдна не зразумелая машыне. Для рэалізацыі на ЭВМ праграма павінна быць пераведзена ў коды машыннай мовы. Гэта работа даручаецца самой машыне. Такі пераклад, які называецца трансляцыяй, ажыццяўляе спецыяльная праграма — транслятар. Машынна-незалежныя алгарытмічныя мовы арыентаваны на апісанне алгарытмаў пэўнага класа задач. Напрыклад, ФАРТРАН — для рашэння навукова-тэхнічных задач, якія маюць пераважна вылічальны характар, КАБОЛ — эканамічных задач, дзе разам з вылічэннямі неабходна апрацоўваць тэкставую інфармацыю. Створаны і так званыя універсальныя алгарытмічныя мовы — ПЛ/1, АЛГОЛ-68, Паскаль, АДА, якія можна выкарыстоўваць для алгарытмізацыі шырокага кола задач.

Гісторыя развіцця алгарытмічных моў поўная складанасцей. Кожная новая алгарытмічная мова сутыкаецца з ужо існуючымі. Яе канкурэнты часта ўжо маюць вядомасць, рэпутацыю, прыхільнікаў, на іх напісаны алгарытмы. Так, мова Паскаль, якую ў 1968 г. распрацаваў Ніклас Вірт, пацярпела паражэнне ад АЛГОЛ-68 у конкурсе, што праводзіла ў 1969 г. міжнародная федэрацыя па апрацоўцы інфармацыі — IFIP. Але Вірт не здаўся. У 1971 г. ён надрукаваў Паскаль, а ў 1973 г. быў створаны першы транслятар з Паскаля, які быў шмат прасцейшы, чым транслятар з АЛГОЛ-68. Шырокае распаўсюджванне міні-ЭВМ і мікра-ЭВМ стварыла вялізную тэхналагічную нішу, у якой Паскаль у цяперашні час выконвае ролю універсальнай мовы. Алгарытмічныя мовы дазваляюць будаваць прыкладныя праграмныя сістэмы, якія валодаюць сваімі моўнымі асаблівасцямі. Некаторыя інфармацыйна-пошукавыя сістэмы і аўтаматызаваныя інфармацыйныя сістэмы (АІС) у якасці мовы запытаў выкарыстоўваць розныя падмноствы натуральных моў. Такая, напрыклад, АІС Паэт, створаная ў СССР у 1981 г. Сістэмы машыннага перакладу дазваляюць значна палегчыць працу перакладчыкаў з адной натуральнай мовы на іншую. Як прыклад можна назваць сістэмы АМПАР, НЕРПА, створаныя ў СССР у 1983 г., і сістэму СІСТРАН — прадукт міжнароднай карпарацыі «Ксеракс». Праграмныя сістэмы, створаныя з выкарыстаннем алгарытмічных моў, дазволілі ствараць многія віды слоўнікаў у рэжыме маніторынгу — г. зн. пастаянна сачыць за зменамі, што адбываюцца ў натуральных мовах на матэрыяле мільёна і больш словаўжыванняў. Узнікла магчымасць масавага стварэння новых відаў лексікаграфічных прац, напрыклад кантэкстных слоўнікаў — канкардансаў. У Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі навуковым супрацоўнікам Н. М. Шчаснай упершыню ў краіне распрацаваны пакет праграм для канкардансаў, і пры яго дапамозе атрыманы канкардансы беларускай мовы 19 ст. і твораў Кузьмы Чорнага. Канкарданс беларускай мовы 19 ст. грунтуецца на творах А. Абуховіча, П. Багрыма, Ф. Багушэвіча, А. Гурыновіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Ельскага, К. Каганца, В. Каратынскага, Я. Лучыны, А. Пшчолкі, У. Сыракомлі, Ф. Тапчэўскага, Я. Чачота, лексіцы фальклору, «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе», «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага, перакладах «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, зробленых В. Дуніным-Марцінкевічам і А. Ельскім, шматлікіх ананімных выданнях, гутарках і г. д. («Кінуў-рынуў паўстанне», «Панская ласка», «Бяседа старога вольніка з новымі пра іхняе дзела», «Гутарка старога

дзеда», «Гутарка Паўлюка», «Гутарка Данілы са Сцяпанам», «Вясна гола перапала», «Вось цяпер які люд стаў», «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць» і інш., брашура «Пра багацтва ды беднасць» і г. д.).

Гэты канкарданс змяшчае паказальнік словаформ у канкрэтным творы на канкрэтнай старонцы, частотны спіс словаформ, а таксама поўны пералік тэкставых ілюстрацый усіх словаформ.

Патрабаванне лаканічнасці, з аднаго боку, і разнастайнасці сродкаў — з другога, выклікалі паяўленне вялікай колькасці розных форм алгарытмічных моў — ад спрошчаных, такіх, як БЭЙСІК (1963 г., ЗША), РАПІРА (1970-я г., СССР), да алгарытмічных моў, блізкіх да натуральных. Напрыклад, мова SEQEL (1977 г., ЗША) адначасова і алгарытмічная мова, і падмноства натуральнай англійскай мовы.

Развіццё машынна-незалежных алгарытмічных моў ідзе ад працэдурна-арыентаваных да праблемна-арыентаваных моў. У працэдурна-арыентаваных мовах алгарытм задаецца ў выглядзе паслядоўнасці працэдурных крокаў, кожны з якіх з'яўляецца часткай усяго вылічальнага працэсу і адначасова алгарытмам. Праблемна-арыентаваныя мовы ўключаюць непрацэдурныя сродкі, з дапамогай якіх карыстальнік паказвае не **як**, а **што** павінна быць зроблена, а канкрэтны алгарытм дасягнення мэты шукае ЭВМ. Цяпер найчасцей такі пошук вядзецца сярод набору алгарытмаў, складзеных загадзя. Але ў галінах, якія хутка развіваюцца, дзе характар задач не пастаянны, праграмы і алгарытмы, прызначаныя для вырашэння гэтых задач, хутка старэюць. Здольнасць прыстасоўвацца да зменлівых умоў патрабуе інтэлекту. Таму больш агульны падыход заключаецца ў сінтэзе неабходнага алгарытму, але для гэтага трэба, каб ЭВМ «зразумела» сітуацыю, у якой будзе дзейнічаць такі алгарытм. Алгарытмічныя мовы, прызначаныя для праектавання сістэм, што «разумеюць» сітуацыю і на аснове гэтага будуюць алгарытм рашэння задач, атрымалі назву моў *штучнага інтэлекту.* Да такіх моў перш за ўсё трэба аднесці сям'ю моў на аснове ЛІСПа (1960 г., ЗША) і Пралога (1971 г., Францыя). У СССР у сярэдзіне 1960-х гадоў В. Ф. Турчын распрацаваў мову РЭФАЛ. Наступным крокам з'явілася стварэнне моў прывядзення і вылічэння сэнсу. У якасці прыкладу можна прывесці мову сітуацыйнага кіравання, распрацаваную на аснове РХ-кодаў Э. Р. Скараходзька ў Вылічальным цэнтры АН СССР і Універсальны семантычны код (УСК), распрацаваны В. У. Мартынавым у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі.

Калі ЛІСП і Пралог з'явіліся ў выніку развіцця і перанясення на ЭВМ матэматычных распрацовак — тэорыі функцый і логікі, то мовы прывядзення і вылічэння ведаў узніклі з абагульнення моўнай практыкі і так званага цвярозага розуму, які праяўляюць людзі ў розных жыццёвых сітуацыях. У час узаемадзеяння з прадметамі, з'явамі свету і адзін з адным людзі і аб'екты выконваюць розныя ролі — агента дзеяння, інструмента, месца лакалізацыі і г. д.— і дзейнічаюць па правілах у адпаведнасці з гэтымі ролямі. Сукупнасці такіх роляў, прынцыпаў, дзеянняў і ляглі ў аснову моў прывядзення і вылічэння ведаў.

У цяперашні час з'явілася і шырока распаўсюдзілася паняцце пра камп'ютэрнае пісьменства, пад якім звычайна разумеюць сукупнасць ведаў і навыкаў пабудовы алгарытмаў рашэння задач, запіс іх на алгарытмічных мовах і выкананне на ЭВМ. У 1986—87 навучальным годзе курс «Асновы інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі» быў уведзены ў 99,8 % агульнаадукацыйных школ Беларусі, 99,5 % сярэдніх прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, у 98,4 % сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Выкарыстанне алгарытмічных моў дазволіла павялічыць прадукцыйнасць працы праграмістаў у сотні разоў, паменшыла колькасць памылак, пашырыла дыяпазон задач, якія вырашаюцца.

*Літ.:* Морозов В. П. Алгоритмические языки. 2 изд. М., 1983; Попов Э. В. Общение с ЭВМ на естественном языке. М., 1982; Рябцева Н. К. Информационные процессы и машинный перевод: Лингв. аспект. М., 1986; Мартынов В. В. Универсальный семантический код: УСК-3. Мн., 1984; Демченко А. И., Мартынов В. В., Счастная Н. М. О необходимости конкордансов нового типа // Изв. АН СССР. Отд-ние лит. и языка. 1985. Т. 44, вып. 5.

*Т. Б. Казлоўская, С. У. Казлоўскі.*

## «АЛЕКСАНДРЫЯ»

«Александрыя» — помнік сусветнай літаратуры, назва якога паходзіць ад аднайменнага горада, заснаванага Аляксандрам Македонскім у Егіпце ў 331 г. да н. э. Гэта біяграфічны сказ пра жыццё, подзвігі і прыгоды македонскага цара Аляксандра, які жыў у 356—323 гг. да н. э. і быў празваны Вялікім. Пасля задушэння дэмакратычнага паўстання ў Грэцыі, заваяванай яго бацькам Філіпам, Аляксандр Македонскі ажыццявіў пераможны паход супраць Персіі, заваяваў яе, дайшоў да сучасных межаў Афганістана і Узбекістана і нават да Заходняй Індыі. Гэтыя падзеі апісваюцца ў рамане «Александрыя», арыгінал якога створаны ў 2—3 ст. н. э. ў Егіпце філосафам Калісфенам на грэчаскай мове. Пазней, у 4 ст., з'явіліся лацінскія рэдакцыі «Александрыі», што потым распаўсюджваліся ў Заходняй Еўропе. Візантыйская апрацоўка грэчаскага і лацінскага рамана паслужыла першакрыніцай для ўзнікнення шматлікіх сярэдневяковых празаічных і вершаваных рэдакцый у еўрапейскіх і блізкаўсходніх краінах. На ўсходнеславянскай глебе «Александрыя» стала вядома з 10 ст., а ў 13 ст. ў перапрацаваным варыянце ўваходзіла ў склад хранографаў, прызначаных для пазнавальнага, займальнага і павучальнага чытання. Вялікай папулярнасцю карысталася «Александрыя» на Русі, не меншае пашырэнне атрымала аповесць і ў старажытнай беларускай літаратуры. Беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар Францыск Скарына ў прадмове да «Бібліі» (1519) сярод некаторых біблейскіх кніг і рыцарскіх аповесцей таксама згадвае і «Александрыю». А ў канцы беларускага спіса «Александрыі» 1697 г., які знаходзіцца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы ў Маскве, зроблена прыпіска, што шчаслівым лічыцца той, хто «ранку читаеть александрию». Беларускія пераклады розных рэдакцый «Александрыі» бытавалі на Беларусі з 15 ст. і стваралíся да 18 ст. У выніку належнай перапрацоўкі лацінскай рэдакцыі «Александрыі» («Historya de proeliis») праз пасрэдніцтва аднаго з польскіх старадрукаў гэтага твора, выдадзенага ў Кракаве ў 1550 г. (2-е выд. 1611; 3-е выд. 1701), а таксама сербскага варыянта на Беларусі ўзніклі 6 яго рукапісных перапрацовак і рэдакцый з розным сюжэтным аб'ёмам і моўнымі асаблівасцямі. Пры стварэнні *рукапісных спісаў «Александрыі»* аўтары (пісцы) карысталіся не толькі існуючымі сюжэтнымі шаблонамі, але і часта адступалі ад іх, уводзілі ў тэксты новых герояў, прыхарошвалі змест казачнымі матывамі, падрабязнасцямі ў некаторых эпізодах і падзеях. Пры ўважлівым лінгвістычным вывучэнні беларускіх перапрацовак і рэдакцый «Александрыі» відаць, што ў іх няма моўнага адзінства, затое яны пралíваюць святло на выяўленне іх моўнай асновы і ўстанаўленне месца ўзнікнення ў межах Беларусі. Такія *пісьмовыя помнікі* з'яўляюцца *каштоўнымі крыніцамі* для гісторыкаў, літаратараў і тым больш для мовазнаўцаў, бо даюць магчымасць прасачыць стан мовы на розных узроўнях і гістарычных этапах яе развіцця. Сярод вядомых беларускіх перакладаў «Александрыі» ў тэкстуальных адносінах адрозніваюцца поўныя, скарочаныя і няпоўныя спісы. Поўныя (Санкт-Пецярбургскі і Маскоўскі, абодва 17 ст.) тэкстуальна ў аснове сваёй супадаюць, аднак па мове іх нельга лічыць тоеснымі. Мова Маскоўскага спіса ў *большай меры архаізавана.* У Санкт-Пецярбургскім больш паслядоўна адлюстраваны рысы тагачаснай народнай беларускай мовы. У тэксце Маскоўскага спіса найчасцей ужываліся

мяккія шыпячыя, а ў Санкт-Пецярбургскім — цвёрдыя *(жедаю — жадаю, жена — жона́)*. Пачатковы [е] перад галоснымі пярэдняга рада Маскоўскага спіса ў Санкт-Пецярбургскім замяняўся на [о] *(езеро — озеро, единъ — одинъ)*, літара ѣ выцяснялася літарай *е (ѣхалъ — ехалъ)*, адбывалася замена няпоўнагалосных форм поўнагалоснымі *(гласъ — голосъ, предъ — передъ)*, ужыванне пачатковага [у] на месцы [в] *(взяла — узяла, въпотемку — употемку)*, пераход суфіксальнага [л] у [в] *(положился — положився)*, зацвярдзенне шыпячых і [ц] *(мужь — мужъ, помочь — помочъ, шибеници — шибеницы)*, перадача спалучэння *жд* праз *жч (проѣждялъ — проежчалъ)*, спрашчэнне груп зычных *(седмь — семь, реклъ — рекъ)*, адпадзенне канцавога *-и* ў канчатку дзеясловаў другой асобы адзіночнага ліку будучага простага часу *(отѣдеши — отедешъ)*, замена кніжнаславянскіх слоў адпаведнымі лексічнымі беларусізмамі *(одежда — одене, хранить — ховать)*. Лёгка заўважыць і той факт, што многія лексічныя архаізмы, ужытыя ў Маскоўскім і Санкт-Пецярбургскім спісах «Александрыі», у апошнім тлумачыліся на палях рукапісу ў выглядзе глос агульнанароднымі словамі тагачаснай беларускай мовы: *уфы — силы, церковь — божница, бестыи — звѣрята, жерцы — попы.* Хоць для абодвух поўных спісаў «Александрыі» беларускага перакладу крыніцай было адно з польскіх друкаваных выданняў, уплыў польскай мовы быў у іх нераўнамерным. У Маскоўскім спісе польскі моўны ўплыў адчуваўся ў большай ступені, чым у Санкт-Пецярбургскім: *барзо — вельми, оздобный — коштовный, валчить — воевать.*

Параўнальны аналіз Санкт-Пецярбургскага і Маскоўскага спісаў «Александрыі» дазваляе выказаць меркаванне адносна месца іх напісання. Санкт-Пецярбургскі спіс больш-менш паслядоўна захаваў дыялектныя рысы паўднёва-заходніх беларускіх гаворак, а Маскоўскі — паўночна-ўсходніх. Пра гэта сведчаць захаванне звонкасці зычных перад глухімі і азванчэнне глухіх перад звонкімі ў Маскоўскім спісе і прыпадабненне звонкіх да глухіх у Санкт-Пецярбургскім *(двадцати — дватцети, свѣдчить — свѣтчить, розки — роски, звязать — связать, прозьба — просьба)*, замена мяккага [р] на цвёрды *(царь — царъ, вѣпрь — вѣпръ, ноздри — ноздры)*, суадносіны канчаткаў *-ите* і *-ѣте* ў дзеясловах загаднага ладу другой асобы множнага ліку *(приведите — приведѣте, приступите — приступѣте)*, ужыванне зваротнай часціцы *се* ў дзеясловах замест варыянтнай формы *ся (сталося — сталосе, соромейся — соромейсе, засмутился — засмутилсе)*, пераход галоснага [о] у [у] *(фортуна — фуртуна)*, наяўнасць канчатка *-ы* ў дзеясловах прошлага часу множнага ліку *(роспорошили — роспорошилы, охолодѣли — охолодѣлы)*, словы з мясцовай агаласоўкай *(который — котрый)*. Праўда, і ў Маскоўскім спісе «Александрыі» зрэдку трапляюцца паасобныя рысы, якія на фоне іншых з'яўляюцца характэрнымі для паўднёва-заходніх беларускіх гаворак. Гэта ўжыванне канчатка *-мо* ў дзеясловах цяперашняга і будучага простага часу пры захаванні ў Санкт-Пецярбургскім форм на *-мы (держымо — державмы, пошлемо — пошлемы)*, канчатка *-охъ* і адпаведна *-ахъ* у назоўніках меснага склону множнага ліку былых асноў на *-о (въ тѣлохъ — въ тѣлахъ)*. Усё гэта сведчыць пра тое, што Маскоўскі спіс «Александрыі» хутчэй за ўсё перакладзены на беларускую мову ў тым масіве сярэднебеларускіх гаворак, якому ўласцівы некаторыя рысы паўночна-ўсходніх і паўднёва-заходніх дыялектных масіваў Беларусі.

Скарочаны Санкт-Пецярбургскі спіс «Александрыі» — гэта асобная рэдакцыя, блізкая да поўных Маскоўскага і Санкт-Пецярбургскага спісаў, але з многімі скарачэннямі ў асвятленні вобраза Аляксандра Македонскага і некаторымі дадатковымі звесткамі, якіх няма ў іншых рэдакцыях гэтага рамана. Беларуская моўная аснова яго насычана паланізмамі *(чловекъ, кроль, кролевати, нендза, опатреный, иле)*, а таксама дыялектнымі рысамі беларускай мовы, суаднесенымі з украінскай: змяшэнне *ы — и (ходымъ, одынъ, обичай, пиха)*, зрэдку сустракаецца рэгіянальны канчатак *-мо* ў дзеяслоўных формах першай асобы множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу *(будуемо, оремо, шукаемо, помремо)*. Гэта дае падставу лічыць узнікненне скарочанага Санкт-Пецярбургскага спіса «Александрыі» ў межах паўднёва-заходняй тэрыторыі Беларусі.

Асноўнай крыніцай Курніцкага спіса «Александрыі» (канец 16 — пачатак 17 ст.) паслужыла сербская рэдакцыя названага рамана. Тэкст дапоўнены некаторымі новымі сюжэтнымі лініямі з канкрэтызацыяй многіх падрабязнасцей, дзякуючы якім вобраз Аляксандра Македонскага выступае ў дадатковым асвятленні. Тэкст цікавы ў моўным плане тым, што тут адлюстраваны многія рысы беларускай мовы, не характэрныя для іншых перапрацовак твора, напрыклад, аканне *(залатую, лактей, раждается)*, новае спалучэнне *-тъцк* на месцы старажытнага *-тъск (Египетъцкому царю)*, спрашчэнне зычных *-стн* у *-сн (жалосно)*, дысіміляцыя (распадабненне) зычных *(ніхто, што)*, канчатак *-у* ў формах назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку *(исъ полку выбѣгал)*, сцягнутыя канчаткі *-ы, -и* ў назоўным-вінавальным склоне мужчынскага роду адзіночнага ліку ў прыметніках і дзеепрыметніках *(богаты, однороги, любимы)*, адсутнасць канчатка *-ть* у трэцяй асобе адзіночнага ліку дзеясловаў будучага простага часу *(перейде, впаде)*, скарачэнне нязменных часціц *бы* ў *б* і *же* ў *ж* пасля



**«Александрыя» (фрагмент Санкт-Пецярбургскага спіса). 17 ст.**

папярэдніх слоў на канцавыя галосныя *(ударила бъ, рада бъ, чему жъ, коли жъ)*, спалучэнне прыназоўніка *до* з родным склонам назоўніка замест *къ* з давальным *(листъ до лѣкаря)*, ужыванне шматлікіх простанародных слоў, што захаваліся ў беларускай мове да апошняга часу *(або, вѣдати, гукъ, инъший, кликати, коштовный, початокъ, ратунокъ, спочатку, чародей* і інш.). Курніцкі спіс «Александрыі» ствараўся, відаць, у паўднёва-заходняй частцы Беларусі асобай, якая добра ведала беларускую мову і яе рэгіянальныя асаблівасці, напрыклад дзеяслоўныя формы з канчаткам *-мо (маемо)*, зафіксаваныя ў тэксце гэтай рэдакцыі.

Маскоўскі спіс «Александрыі» 1697 г. тэкстуальна супадае з Курніцкім спісам, які паслужыў асновай для яго ўзнікнення. Яго стваральніку былі вядомы і іншыя рэдакцыі, адкуль ён уносіў новыя ўрыўкі ў свой тэкст; тут змешчаны звесткі пра аўтара (пісца) гэтага спіса і час яго з'яўлення (пісаў мазырскі дзяк Васіль Гаўрылавіч Мянжынскі ў 1697 г.). Тэкст насычаны такімі моўнымі асаблівасцямі беларускай мовы, як аканне *(шаломъ)*, ужыванне афрыкаты *ждж* на месцы агульнаславянскага спалучэння *zdj (приежджати)*, дзеяслоўных форм будучага простага часу ў значэнні прошлага *(Александръ взялъ макидонское войско и поидеть противъ ихъ)*.

Захаваўся яшчэ адзін невялікі ўрывак Санкт-Пецярбургскага спіса «Александрыі» 15 ст. Паводле сюжэта, стылю выкладання і мовы ён набліжаецца да Маскоўскага 1697 г. і Курніцкага спісаў. Беларускія рукапісныя спісы «Александрыі» захоўваюцца: у Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы ў Маскве, Дзяржаўнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу, Курніцкім музеі (Польшча). Пералічаныя рукапісныя спісы ўпершыню апублікаваў У. В. Анічэнка ў кнізе «Александрыя» (1962). *У. В. Анічэнка.*

## АЛФАВІТ

Алфавіт [грэч. alphábētos ад назваў першых дзвюх літар грэка-візантыйскага алфавіта álpha (альфа) і bēta (бета, навагрэчаскае vita віта)] — сукупнасць графічных знакаў (літар) пэўнай сістэмы пісьма, размешчаных у замацаваным парадку; азбука. Уяўляе пазнейшую стадыю развіцця графікі, якая надышла ўслед за піктаграфічным (малюнкавым), ідэаграфічным (іерогліфічным), а таксама складовым пісьмом. Асноўныя патрабаванні да кожнага алфавіта: дакладная колькасць адпаведных літар і асноўных гукаў мовы (фанем), прастата малюнкаў літар і іх зручнасць для напісання, выразнае адрозненне адной літары ад другой пры захаванні адзінства іх графічнай будовы. Але алфавітаў, якія б поўнасцю адпавядалі ўсім гэтым патрабаванням, няма. У розных алфавітах побач з асноўнымі значэннямі графем існуюць дадатковыя, якія залежаць ад суадносін літар і гукаў, што абазначаюцца імі, і ад пазіцый гука ў слове.

Алфавіт упершыню ўзнік у старажытных *літарна-гукавых сістэмах*. Яго маюць і некаторыя складовыя сістэмы, напрыклад японскія катакана і хірагана, індыйская дэванагары і інш. Першую чыста гукавую сістэму пісьма стварылі фінікійцы каля 2000 г. да н. э. пасля заняцця дэльты Ніла і азнаямлення з егіпецкім пісьмом. Простае і дасканалае фінікійскае пісьмо стала асновай для ўсіх наступных літарна-гукавых сістэм. Ад фінікійскага паходзіць арамейскі алфавіт, што даў пачатак яўрэйскай і арабскай пісьмовым сістэмам, а таксама грэчаскае пісьмо, на якім грунтуецца большасць еўрапейскіх алфавітаў. Найбольш верагодным часам стварэння грэчаскага алфавіта лічыцца 11 ст. да н. э. Старажытныя грэкі пакінулі без істотных змен форму фінікійскіх літар, іх назвы і парадак размяшчэння, адкінуўшы толькі графемы, непатрэбныя для перадачы гукаў сваёй мовы, і ўвёўшы некалькі новых. Грэчаскі алфавіт лёг у аснову італійскіх (этрускага, умбрыйскага, оскага, лацінскага, фаліскійскага і інш.), з якіх лацінскі алфавіт пазней набыў міжнародны характар, пашырыўся ў многіх варыянтах на ўсе часткі свету. Пазнейшы візантыйскі варыянт грэчаскага алфавіта даў пачатак армянскаму і грузінскаму пісьму. На грэка-візантыйскай аснове ўзнікла і кірыліца (гл. **Кірыліца**), што на працягу некалькіх стагоддзяў ужывалася ў большасці славянскіх краін. Кірыліцкі алфавіт перайшоў у спадчыну беларусам, як і іншым усходнеславянскім народам, ад старажытнарускага пісьменства. Выкарыстоўваўся ў старабеларускім пісьменстве ад 14 да 18 ст. У 18 — пачатку 20 ст. ў сувязі з яго заняпадам стаў ужывацца лацінскі алфавіт (лацінка), які дагэтуль служыў толькі для афармлення польскіх і лацінскіх тэкстаў. Лацінкай былі надрукаваны творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, зборнік Я. Купалы «Гусляр» і творы іншых пісьменнікаў. З узнікненнем легальнай беларускай прэсы для перадачы гукавой сістэмы беларускай мовы быў прыстасаваны рускі грамадзянскі шрыфт.

Сучасны беларускі алфавіт замацаваўся як адзіны графічны сродак пісьмовай формы беларускай літаратурнай мовы пасля ўтварэння БССР. Ён складаецца з 32 літар (некаторыя даследчыкі асобнымі літарамі лічаць дыграфы *дж* і *дз*): Аа, Бб, Вв, Гг, Дд, (Дж, дж), (Дз, дз), Ее, Ёё, Жж, Зз, Іі, Йй, Кк, Лл, Мм, Нн, Оо, Пп, Рр, Сс, Тт, Уу, Ўў, Фф, Хх, Цц, Чч, Шш, Ыы, Ьь, Ээ, Юю, Яя. Усе літары выразна адрозніваюцца паміж сабой. Яны могуць ужывацца ў друкаваным і рукапісным выглядзе, маюць вялікую і малую форму. Ёсць спецыяльны знак — апостраф (').

Найбольш пашыраныя сучасныя алфавіты: лацінскі (у народаў Амерыкі і Аўстраліі, большай часткі народаў Еўропы і некаторых краін Азіі і Афрыкі), рускі, утвораны на базе кірыліцы (ва ўсходнеславянскіх народаў, многіх народаў Расійскай Федэрацыі і Сярэдняй Азіі, у Балгарыі, Сербіі, Манголіі), арабскі (у народаў арабскіх краін, Ірана, Афганістана, Пакістана).

*Літ.:* Истрин В. А. Возникновение и развитие письма. М., 1965; Дирингер Д. Алфавит: Пер. с англ. М., 1963; Павленко Н. А. История письма. 2 изд. Мн., 1987. *А. М. Булыка.*

## АЛЯХНОВІЧ МСЦІСЛАЎ АНТОНАВІЧ



Польскі лінгвіст М. А. Аляхновіч нарадзіўся 22 лютага 1905 г. ў Гродне ў сям'і настаўніка гімназіі. У 1934 г. скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне гуманітарнага факультэта, а ў 1938 г. юрыдычнае аддзяленне факультэта права і грамадскіх навук Віленскага універсітэта. Доктар філалагічных (1963) і педагагічных (1966) навук, прафесар (1974). У 1939—41 гг. працаваў журналістам у рускіх газетах у Вільні, у 1944—49 гг. у камітэце нацыянальнага вызвалення ў Любліне. З 1949 г. працаваў у Лодзінскім універсітэце: выкладчык рускай мовы, з 1966 г. загадчык кафедры рускай філалогіі, у 1973—75 гг. дырэктар Інстытута рускай філалогіі. У 1967—82 гг. га-




**М. Аляхновіч. «Польскія даследчыкі беларускага фальклору і мовы ў XIX стагоддзі» (вокладка). 1986.**

лоўны рэдактар часопіса «Język Rosyjski» («Руская мова»). Памёр М. А. Аляхновіч 24 ліпеня 1982 г. ў Лодзі.

Асноўныя працы М. Аляхновіча прысвечаны рускай акцэнтуацыі і звязанаму з ёю словаўтварэнню. У даследаваннях па гэтай праблематыцы выкарыстоўваў таксама матэрыялы беларускай і літоўскай моў. Распрацоўваў тэарэтычныя пытанні выкладання рускай мовы ў польскіх школах.

Асобнае месца ў навуковых пошуках і распрацоўках вучонага займалі беларуская мова і фальклор. Яшчэ ў 1963 г. ён у якасці доктарскай абараніў дысертацыю «Польскія зацікаўленні беларускім народам (ад паловы XVI да пачатку XIX стагоддзя)». Вынікі яго беларусазнаўчых даследаванняў у гэтай галіне абагульнены ў манаграфіі «Польскія даследчыкі беларускага фальклору і мовы ў XIX ст.» (1986). Даследуючы польскія зацікаўленні беларускай моваю, М. Аляхновіч разглядаў працы М. Бельскага «Хроніка ўсяго свету» (1551, у 1554 г. «Хроніка» перакладзена на беларускую мову), Л. Гурніцкага «Польскі дваранін», Я. Манчынскага — аўтара першага польска-лацінскага слоўніка 1564 г., Г. Кнапскага, які ў 1621 г. выдаў польска-лацінска-грэчаскі слоўнік і выступаў супраць уключэння ў польскую мову замежных слоў, акрамя славянскіх, аўтара даследавання «Думкі пра пачатак, старажытнасць, змены і дасканаленне польскай мовы» (1767) С. Клячэўскага, які лічыў беларускую мову адной з першабытных славянскіх моў.

М. Аляхновіч падкрэсліў уплывы тагачаснай мовы Вялікага княства Літоўскага, мовы «рускай» (г. зн. беларускай) на польскую, што ўзмацнялі і дзяржаўна-палітычныя, і грамадскія, і культурныя ўзаемаадносіны народаў-суседзяў. «Ягелоны,— пісаў Аляхновіч,— часта і ахвотна гаварылі па-руску. Кішаць ад рутэнізмаў (беларусізмаў) пісьмы такіх асоб, як Жыгімонт Аўгуст, Радзівілы, Сапегі. Штораз часцей з'яўляюцца яны ў пісьменнікаў, якія паходзілі з усходніх зямель. Якраз тады пачынаюць праціскацца ў мову рускія прозвішчы, што канчаліся на -іч, -овіч (напр., Хадкевіч, Станковіч), якія прычыніліся да поўнага высвятлення старой польскай формы -іц (параўн. даўнейшае Шымановіц, Кляновіц, старосціц, крулевіц — ператвораны пазней на каралевіча і г. д.). У лексіку назаўсёды ўваходзяць словы: сяло, галота, чарэшня (замест trześnia), чарэмха (замест trzemcha), чэрап, багатыр... і г. д. Вядома, уплывы былі ўзаемныя. Беларуская мова па той жа прычыне паглынала штораз больш польскіх выразаў, а часткова і граматычных форм» (с. 212—213).

Аўтар паказаў, што беларускую мову шырока выкарыстоўвала шляхта ў часы Рэфармацыі, калі яе ўзначальваў Міхал Радзівіл, які шырыў паміж шляхты, мяшчан і сялян пратэстантызм «з дапамогаю кальвінскіх кніг, друкаваных па-беларуску» (с. 213). М. Аляхновіч звярнуў увагу на асветніцкую і кнігавыдавецкую дзейнасць С. Буднага, паляка па паходжанні, які добра вывучыў беларускую мову, друкаваў на ёй свае кнігі. У сваёй манаграфіі аўтар сцвярджае, што зацікаўленні беларускай моваю ў Польшчы слабелі ў сувязі з паланізацыяй беларускай шляхты і мяшчанства, асабліва іх сацыяльных вярхоў. У канцы 18 ст. ўжо назіраецца адваротны працэс — ігнараванне яе як мовы «мужыцкай». І толькі эпоха рамантызму, паварот грамадства да народнай творчасці, фальклору і этнаграфіі, жыцця і побыту народа на пачатку 19 ст. зноў узнялі цікавасць да беларускай мовы. Падрабязна даследаваў М. Аляхновіч погляды С. Б. Ліндэ, буйнога польскага мовазнаўца, аўтара фундаментальнага «Слоўніка польскай мовы» (т. 1—6, 1807—14), у якім шырока выкарыстаны беларускія крыніцы 16—17 ст. Палемізуючы з рускім бібліёграфам В. Сопікавым, які беларускую мову назваў «мешанінай з моў славянскай, рускай, польскай і часткова лацінскай», С. Ліндэ ў працах «Пра літаратуру славянска-расійскую» (1816) і «Пра Статут літоўскі, рускай мовай і друкам выдадзены, паведамленне» (1816) пераканаўча давёў, што беларуская мова — мова самастойная, ёю напісаны Статут Вялікага княства Літоўскага (1588) і блытаць яе з рускай ці польскай мовамі неправамерна.

У даследаванні М. Аляхновіча шмат іншых фактаў зацікаўлення беларускай моваю такіх даследчыкаў і пісьменнікаў, як К. Вуйціцкі, Л. Галамбёўскі, Ю. І. Крашэўскі, М. Маркс, М. Вішнеўскі, А. Кіркор, А. Брукнер і інш., а таксама польска-беларускіх вучоных, пісьменнікаў, фалькларыстаў і этнографаў І. Даніловіча, З. Даленгі-Хадакоўскага, А. Рыпінскага, Я. Чачота, Т. Зана, Р. Зянькевіча, У. Сыракомлі, А. Ельскага і інш.

*Тв.:* Rosyjski system akcentuacyjny. Łódź, 1974; Akcent rosyjski. Wrocław, 1977; Polskie zainteresowania językiem białoruskim (od połowy wieku XVI do roku 1863)// Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Łódzkiego. Ser. 1. 1964. Z. 36; Badacze folkloru poleskiego w pierwszej połowie XIX wieku // Тамсама. 1965. Z 41; Elementy białoruskie w pieśni polskiej pierwszej połowy wieku XIX // Тамсама. 1966. Z 43; «Białoruś — Polesie» Oskara Kolberga //Kolberg O. Dzieła wszystkie. Wrocław; Poznań, 1968. T. 52. Białoruś — Polesie; Tendencje rozwojowe akcentu białoruskiego (na tle porównawczym akcentu rosyjskiego) //Slavia Orientalis. 1978. R. 13, Nr 3; Сістэма націску назоўнікаў з вытворнай асновай у беларускай мове // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972.

*Літ.:* С а л а м е в і ч І. Польскі даследчык Беларусі // ЛіМ. 1975. 21 лют.; Bibliografia publikacji naukowych i dydaktycznuch prof. dra habil. Mścisława Olechnowicza // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Łódzkiego. Ser. 1. 1979. Z. 33.

*І. У. Саламевіч, В. Л. Вярэніч.*

## АМАНІМІЯ

Аманімія — гукавое супадзенне адзінак (марфем, слоў, словазлучэнняў і г. д.), якія адрозніваюцца паміж сабой значэннем. Часта выкарыстоўваецца ў мастацкай літаратуры для стварэння каламбураў, эпіграм, жартаў як своеасаблівы сродак гульні слоў. Напрыклад: *Я на елку палячу — // усе галінкі палячу. // З журавін зрабіў каралі, // журавы мяне каралі, // а суніцы ледзь паспелі, іх дразды скляваць паспелі* (С. Грахоўскі). Параўнайце яшчэ *гасцінец* 'рэч, ласунак, якія госць падносіць каму-небудзь' і *гасцінец* 'вялікая бітая дарога', *паліць* (кветкі) і *паліць* (у печы), *такт* 'музычная адзінка' і *такт* 'пачуццё меры', *байка* 'літаратурны твор' і *байка* 'мяккая бавоўняная тканіна'.

Усе амонімы-словы падзяляюцца на тыпы: лексічныя, фанетычныя, марфалагічныя і інш. Л е к с і ч н ы я а м о н і м ы маюць поўнае гукавое супадзенне ва ўсіх формах і адносяцца да адной часціны мовы. Напрыклад: *нота* 'дыпламатычны дакумент' і *нота* 'музычны знак', *блок* 'палітычнае аб'яднанне' і *блок* 'тэхнічнае прыстасаванне, механізм'. Ф а н е т ы ч н ы я а м о н і м ы, або а м а ф о н ы (ад грэч. homos аднолькавы і phone гук) — словы, якія аднолькава гучаць, але адрозніваюцца напісаннем. Параўнайце: *грыб — грып, род — рот, везці — весці, код — кот, казка — каска* і інш. Часцей за ўсё яны супадаюць па гучанні толькі ў асобных формах.

М а р ф а л а г і ч н ы я а м о н і м ы, або а м а ф о р м ы (ад грэч. homos аднолькавы і morphe форма) — словы, якія звычайна адносяцца да розных часцін мовы і супадаюць толькі ў некаторых марфалагічных формах: *вусны* (назоўнік множнага ліку) і *вусны* (прыметнік), *кліч* (назоўнік) і *кліч* (дзеяслоў загаднага ладу), *сопкі* (прыметнік) і *сопкі* (назоўнік множнага ліку). *А раніцай туман над сопкай — // густая пара над катлом: // знаёма пахла бульбай сопкай, //сялом, пакінутым жытлом* (Р. Барадулін).

Адрозніваюць поўную і частковую аманімію. Поўныя амонімы супадаюць ва ўсіх граматычных формах. Напрыклад: *заранка* 'зорка' і *заранка* 'птушка'. Пры частковай лексічнай аманіміі адно з сугучных слоў цалкам (ва ўсіх сваіх формах) супадае па гучанні з часткай форм іншага слова ці нават з адной асобнай яго формай, параўнайце *вечарам* (прыслоўе) і *вечарам* (назоўнік мужчынскага роду адзіночнага ліку творнага склону). У беларускай, як і ў іншых мовах, пашыраны від частковай аманіміі, калі ўсе формы аднаго назоўніка аказваюцца аманімічнымі з формамі множнага ліку іншага назоўніка. Напрыклад: *курсы* 'форма павышэння кваліфікацыі кадраў' і *курсы* (множны лік да *курс*), *шашкі* 'гульня' і *шашкі* (множны лік да *шашка*). Да частковай адносяць таксама прыставачную аманімію (*дапісаць* — поўнасцю скончыць пісаць і *дапісаць* — да канца старонкі), супадзенне форм аднаго з трыванняў (закончанага ці незакончанага) розных дзеясловаў (*прамака́ць* ад *прамакну́ць* і ад *прамо́кнуць*). Выпадкі тыпу *норка* 'звер' і *норка* 'маленькая нара', *ножка* (у мэблі) і *ножка* (памяншальнае ад *нага*), *кашка* 'канюшына' і *кашка* (памяншальнае ад *каша*) таксама частковая аманімія. Сукупнасць амонімаў якой-небудзь мовы называецца аманімікай. Аманімікай называецца і раздзел лексікалогіі, які вывучае амонімы.

Амонімы ўзнікаюць у мове па розных прычынах у выніку разнастайных працэсаў, такіх, як фанетычныя змяненні, што вядуць да супадзення этымалагічна розных адзінак, запазычання лексікі, абрэвіяцыі і г. д. Многія лексічныя амонімы ў сучаснай беларускай мове ўтварыліся ў выніку страты сэнсавай сувязі паміж асобнымі значэннямі (у тым ліку і пераноснымі) мнагазначных слоў: *каса́* 'прылада працы' — *каса* 'заплеценыя валасы' — *каса* 'вузкая пясчаная палоса'; пераходу слоў з адной часціны мовы ў другую: *дзяжурны* (назоўнік) — *дзяжурны* вучань (прыметнік); у выніку дзеяння фанетычных законаў мовы, у прыватнасці ў выніку аглушэння звычных на канцы слова: *мох* (расліна) — *мог* (ад дзеяслова *магчы*); гукавога супадзення розных слоў: *міна* 'выраз твару' — *міна* 'снарад з выбуховым рэчывам'.

Акрамя амонімаў, што існуюць у адной мове, ёсць яшчэ м і ж м о ў н ы я а м о н і м ы — словы, якія амаль поўнасцю супадаюць па гучанні ў дзвюх мовах. Параўнайце прыклады з рускай і беларускай моў: рускае *диван* (прадмет мяккай мэблі) — беларускае *дыван* (тканы, звычайна варсісты выраб для ўпрыгожвання сцен, засцілання падлогі), *лист* (адзіночны лік да *листья, листы*) — *ліст* (пісьмо), *гонор* 'ганарлівасць, фанабэрыстасць' — *гонар* (маральная годнасць, павага) і інш. Знешняе супадзенне такіх слоў бывае прычынай няправільнага іх ужывання двухмоўнай асобай.

Ад амонімаў трэба адрозніваць а м о г р а ф ы — словы, якія аднолькава пішуцца, але па-рознаму вымаўляюцца: *ка́са — каса́, а́тлас — атла́с, му́ка — мука́*. Іх можна адрозніць толькі ў кантэксце. Некаторыя лічаць, што аманімія з'яўляецца перашкодай для моўных зносін, для ўзаемаразумення. Сапраўды, калі мы пачуем (ці ўбачым напісанымі) словы *гасцінец* ці *журавель*, то адразу нельга зразумець ідзе гаворка пра падарунак ці пра дарогу, пра птушку ці пра прыладу для даставання вады з калодзежа. Але словы ў мове рэдка ўжываюцца ізалявана, звычайна яны знаходзяцца ў кантэксце, а з кантэксту мы можам лёгка здагадацца, што маецца на ўвазе. Напрыклад: *Журавель лунае // Той, што крылы мае, // А другі, бяскрылы, // Напружвае сілы // Каб дастаць вадзіцы // Слаўнай маладзіцы* (К. Крапіва).

Аманімія ўласціва і сінтаксісу. Сінтаксічныя амонімы — гэта канструкцыя, якая можа атрымаць больш чым адну семантыка-сінтаксічную інтэрпрэтацыю. Так, словазлучэнне *чытаць выразна надрукаваныя радкі* можна зразумець па-рознаму: або як 'выразна чытаць надрукаваныя радкі', або як 'чытаць радкі, надрукаваныя выразна'. Няцяжка заўважыць, што прычын аманімічнасці тут дзве: парадак слоў і здольнасць лексемы *выразна* спалучацца з двума словамі, што ўваходзяць у спалучэнне. Прыкладамі аманімічных сказаў могуць служыць выразы: *Яму трэба пазваніць; Брат Зосі з вёскі прыехаў; Выступаць вечарам ён адмовіўся* і пад. Фактычна аманімічнымі трэба прызнаць усе сказы, калі ўспомніць, што іх сэнс можа мяняцца ў залежнасці ад лагічнага націску, параўнайце: *Мінск — сталіца Беларусі; Карабель абстраляў бераг; З хаты выйшлі мужчыны.* Мяняючы лагічны націск, атрымліваем фактычна розныя суджэнні, розныя суадносіны вядомага і новага (або тэмы і рэмы — згодна з тэорыяй актуальнага члянення). Такім чынам адна сінтаксічная форма можа перадаваць розны змест. Галоўныя сродкі пераадолення сінтаксічнай аманіміі ў маўленні — гэта кантэкст і сітуацыя маўлення. Праблема сінтаксічнай аманіміі — адна з найбольш складаных праблем тэарэтычнай граматыкі.

*Літ.:* М і х н е в і ч А. Я. Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы. Мн., 1976; К р а с н е й В. П. Грані слова. Мн., 1986.

*Л. П. Кунцэвіч, А. Я. Міхневіч.*

## АНАМАСІЯЛОГІЯ

Анамасіялогія — раздзел мовазнаўства, які вывучае прынцыпы і заканамернасці намінацыі (гл. **Намінацыя**). Анамасіялогію цікавяць пытанні: як мы называем аб'екты і з'явы (спосабы і сродкі намінацыі); чаму мы іх называем так ці інакш (умовы, механізм намінацыі). Анамасіялогія выяўляе таксама, якія бываюць класы назваў, як выкарыстоўваюцца назвы, і як ствараюцца новыя, якія фактары ўплываюць на з'яўленне, пашырэнне і адміранне назваў.

Анамасіялагічны аспект аналізу моўных адзінак уваходзіць у кола гнасеалагічных праблем, таму што сама намінацыя з'яўляецца неабходным крокам у пазнавальным працэсе. Яна звязана з апрадмечваннем чалавекам аб'ектыўнага свету, з выдзяленнем і абагульненнем неабходнага і істотнага ў прадмеце, звязана з грамадскім вопытам чалавека, яго працоўнай дзейнасцю.

Прысваенне прадметам, з'явам, уласцівасцям назваў, якое здзяйсняецца на аснове агульных законаў мыслення — гэта складаны логіка-лінгвістычны працэс, характар якога залежыць не толькі ад унутраных, але і пазамоўных фактараў — псіхалагічных, сацыяльных. Таму анамасіялогія цесна звязана з логікай, псіхалогіяй, сацыялогіяй і ў значнай ступені абапіраецца на вынікі даследаванняў гэтых навук. Сама ж анамасіялогія выдзелілася як самастойны раздзел з семасіялогіі (гл. **Семасіялогія**). Абедзве навукі маюць адзін аб'ект даследавання — семантыку слова, але разглядаюць яго з розных бакоў: анамасіялогія — з пункту погляду суадносін слова з пазамоўным прадметным радам, г. зн. вывучае спецыфіку слова як намінатыўнай адзінкі мовы; семасіялогія — з пункту погляду яго ўнутрымоўных сувязей, г. зн. аналізуе сэнсавы бок слова, аб'ём, структуру яго значэнняў. Такі падыход да семантыкі слова вынікае з класічнага разумення слова як адзінства значэння і абазначэння.

Асновы тэорыі намінацыі былі закладзены параўнальна нядаўна. Сярод першых даследчыкаў гэтай галіны мовазнаўства былі нямецкія вучоныя — заснавальнікі лінгвістычнага кірунку «словы і рэчы» (па-нямецку Wörter und Sachen) Я. Р. Мерынгер, В. Меер-Любке, Г. Шухарт і інш.,

якія групаваліся вакол часопіса «Wörter und Sachen » (з 1909 г.). Яны ставілі мэтай вывучэнне слоў як сродкаў моўнага абазначэння рэчаў і прадметаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. У Расіі паслядоўнікам гэтага кірунку быў М. М. Пакроўскі.

Асаблівая цікавасць лінгвістаў да анамасіялагічнай праблематыкі, да вывучэння механізму прамой, першаснай намінацыі, звязанай з працэсам знакаўтварэння і апісання ўмоў другаснай намінацыі, выявілася ў апошнія дзесяцігоддзі. Значна пашырылася сфера анамасіялагічных даследаванняў, паглыбіліся самі анамасіялагічныя апісанні. У кола анамасіялагічнай праблематыкі, акрамя намінатыўнага аспекту семантыкі слова, даследчыкі ўключаюць вывучэнне механізму станаўлення і ўмоў намінацыі адзінкамі іншых узроўняў мовы. Напрыклад, разглядаюцца сістэмныя сродкі стылістычнай намінацыі; намінацыя ў сферы вытворных слоў (дэрывацыйная анамасіялогія); вывучаецца словазлучэнне як намінатыўная адзінка; механізм утварэння ўскоснай намінацыі, якая здзяйсняецца фразеалагічнымі адзінкамі мовы. З перанясеннем у сучаснай лінгвістыцы акцэнта на камунікатыўны аспект мовы ў сферу анамасіялагічных праблем трапляюць сінтаксічныя даследаванні, заснаваныя на семантычным прынцыпе аналізу сказаў. У цэнтры ўвагі семантызаванага сінтаксічнага апісання аказваюцца тыя аспекты моўных адзінак, якія суадносяцца з прадметным радам, з сітуацыяй. У анамасіялагічным аспекце беларускія вучоныя разглядаюць тапаніміку, анамастыку (працы М. В. Бірылы, В. П. Лемцюговай, Г. У. Арашонкавай і інш.). Па сутнасці, у намінатыўным плане разглядаюцца ўсе значымыя адзінкі мовы. Адпаведна пашырыўся і аб'ём самога паняцця анамасіялогія. Можна лічыць, што анамасіялогія — гэта навука пра назвы, прыроду наймення, сродкі абазначэння, якія складваюцца на розных узроўнях моўнай сістэмы. З улікам анамасіялагічнага прынцыпу ўкладаюцца ідэаграфічны і тэматычны слоўнікі, лексічны і дыялекталагічны атласы беларускай мовы.

Вырашэнне пытанняў анамасіялогіі мае важнае практычнае значэнне, у прыватнасці для выпрацоўкі рэкамендацый па адборы аптымальных спосабаў намінацыі, для прагназіравання прадуктыўнасці тых ці іншых мадэлей слоў і словазлучэнняў.

*Літ.:* К у б р я к о в а Е. С. Части речи в ономасиологическом освещении. М., 1978; У ф и м ц е в а А. А. Лексическое значение: Принципы семиологического описания лексики. М., 1986; Аспекты семантических исследований. М., 1980; Р а г а ў ц о ў В. І., Ю р э в і ч А. К. Уводзіны ў мовазнаўства. Мн., 1987. *Л. І. Сямешка.*

**АНАМАСТЫКА**

Анамастыка (ад грэч. onomastikē майстэрства даваць імёны) — раздзел мовазнаўства, які вывучае любыя ўласныя імёны, іх паходжанне, гісторыю, асноўныя заканамернасці развіцця і функцыяніравання, а таксама сукупнасць уласных імён — анімію, анамастыкон. Уласныя імёны мастацкіх твораў даследуе паэтычная анамастыка. Раней замест анамастыка ўжываўся тэрмін тапанамастыка. Спецыфіка прадмета анамастыкі ў тым, што яго вывучэнне выходзіць за межы мовазнаўства і патрабуе ўліку гістарычных, геаграфічных, сацыяльна-эканамічных і іншых фактараў.

Асноўныя і найбольш распрацаваныя раздзелы анамастыкі — т а п а н і м і к а (гл. **Тапаніміка**), якая вывучае ўласныя назвы геаграфічных аб'ектаў *(Беларусь, Палессе,* рака *Вілія,* вуліца *Петруся Броўкі,* горад *Мінск,* вёска *Мікалаеўшчына,* лясное ўгоддзе *Ізбішча,* горная вяршыня *Эверэст)* і а н т р а п а н і м і к а (гл. **Антрапаніміка**) — уласныя імёны людзей *(Адам, Сафрон, Францыск Скарына, Рыгор Раманавіч Шырма, Адам Антонавіч Бабарэка).*

Да анамастыкі адносяцца т э а н і м і к а — уласныя імёны багоў і міфалагічных істот *(Вялес, Дажбог, Пярун, Сварог, Стрыбог, Хорс, Ярыла, Вадзянік, Лясун);* з а а н і м і к а — клічкі жывёл *(Падласая, Жучка, Зорка, Лыска, Мурка);* к а с м а н і м і к а — назвы галактык, сузор'яў (галактыкі *Марфей І, Марфей ІІ;* сузор'і *Вялікая Мядзведзіца, Геркулес, Дракон, Казярог, Пегас, Персей);* а с т р а н і м і к а — назвы асобных нябесных цел (планеты *Зямля, Марс, Меркурый, Венера, Сатурн;* зоркі *Галава Гаргоны, Сэрца Гідры, Атлас, Яслі;* астэроіды *Ангеліна, Сільвія;* каметы *Бакулунда, Клемола).* Аб'ектам даследавання анамастыкі з'яўляюцца таксама х р э м а т о н і м ы — уласныя назвы унікальных, каштоўных прадметаў матэрыяльнай культуры, назвы музычных інструментаў, ювелірных вырабаў, каштоўных камянёў і інш. *(«Цар-пушка», «Шапка Манамаха»,* алмазы *«Зорка Поўдня», «Рэгент»,* залатыя самародкі *«Вярблюд», «Мефістофель»);* ф і т о н і м ы — уласныя назвы асобных раслін (ружа *«Шапэн»,* слівы *«Эма Ліперман»,* секвоя *«Сентынел»*); х р а н о н і м ы — уласныя назвы гістарычна знамянальных адрэзкаў часу, гадавых цыклаў прыроды *(Вялікая Айчынная вайна, Пятроўская эпоха, Ялцінская канферэнцыя, Новы год, «бабіна лета»);* э р г о н і м ы — уласныя назвы прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, таварыстваў, гурткоў *(«Беларусьфільм»,* камбінат *«Праўда», Беларускі дзяржаўны універсітэт — БДУ,* ансамбль *«Песняры», Таварыства беларускай мовы — ТБМ, гурток беларускай мастацкай інтэлігенцыі «Беларуская хатка»);* а н е м о н і м ы — уласныя назвы стыхійных бедстваў, ураганаў, цыклонаў, тайфунаў, вятроў (ураганы *Аліса, Джыльберт, Флора,* цыклон *Даліла,* тайфун *Глорыя*); д а к у м е н т о н і м ы — уласныя назвы асобных, найбольш важных дакументаў *(Дэкрэт аб міры, Статут Вялікага княства Літоўскага, Патсдамская дэкларацыя, «Устава на валокі», Кітабы, «Баркалабаўскі летапіс»);* д р а м о н і м ы — уласныя назвы шляхоў зносін (шлях *«з варагаў у грэкі», Дайгінаўскі тракт, Лагойскі тракт,* авіялінія *Мінск — Варшава).*

Уласныя імёны (гл. **Уласнае імя**), іх паходжанне і гісторыя цікавілі чалавецтва з даўніх часоў. Аднак навуковы падыход да іх — з'ява адносна нядаўняя. Пачатак ім паклаў нямецкі вучоны В. Гумбальт (1767—1835). У Расіі прыхільнікам гэтага кірунку быў А. Х. Востокаў (1781—1864). Асобныя рускія і беларускія вучоныя ўжо ў сярэдзіне 19 ст. разумелі важнасць уласных імён для вызначэння гістарычных межаў рассялення славян і суседніх з імі народаў (А. Г. К. Кіркор, А. А. Качубінскі, А. Л. Пагодзін). Больш высокі этап у развіцці ўсходнеславянскай анамастыкі звязаны з імёнамі А. А. Шахматава (1864—1920) і А. І. Сабалеўскага (1857—1929) і нашых землякоў З. Я. Тараноўскага і Ю. Ю. Трусмана. І ўсё ж асноўная частка даследаванняў гэтага перыяду не ўзнялася вышэй за ўзровень прыватныхназіранняў і заўваг. Сістэмны, навуковы характар вучэнне пра ўласныя імёны набыло толькі ў апошнія дзесяцігоддзі, калі з'явілася шмат спецыяльных выданняў, былі выпрацаваны прынцыпы анамастыкі як самастойнай навуковай дысцыпліны.

Беларускую анамастычную школу заснаваў акадэмік АН Беларусі М. В. Бірыла. Вывучаюцца два класы анамастычнай лексікі — а н т р а п о н і м ы і т а п о н і м ы (айконімы, гідронімы, мікратапонімы, урбонімы). Даследчыкі засяроджваюць увагу на сукупнасці тых ці іншых класаў уласных імён у межах пэўных тэрыторый (рэспублікі, вобласці, басейна ракі і інш.), а таксама на асобных тыпах уласных імён, вылучаных на аснове агульнасці словаўтваральнай або семантычнай прыкметы. Так, у працах «Беларуская антрапанімія» (ч. 1—3, 1966—82) М. В. Бірылы, «Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны XIV—XVIII стст.» (1975) Г. К. Усціновіч высвятляецца паходжанне старажытных і сучасных беларускіх асабовых імён, імён па бацьку і прозвішчаў, а ў працах «Тапаніміка Беларусі» (1968) і «Вуліцы помняць» (1979) В. А. Жучкевіча, «Беларуская айканімія» (1970) В. П. Лемцюговай, «Мікратапанімічныя назвы» (1971) Я. М. Адамовіча даследуецца паходжанне, станаўленне і развіццё ўласных назваў паселішчаў, вуліц, прырод-

ных і гаспадарчых аб'ектаў. Некалькі прац прысвечана вывучэнню асобных словаўтваральных і семантычных тыпаў тапонімаў «Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы» (1968) М. В. Бірылы і А. П. Ванагаса, «Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах» (1973) М. В. Бірылы і В. П. Лемцюговай, «Усходнеславянская айканімія апелятыўнага паходжання» (1983) В. П. Лемцюговай.

Уласныя імёны склаліся гістарычна. Яны адлюстроўваюць паняцці ўсіх сфер чалавечага жыцця і дзейнасці. На аснове іх аналізу прачытваюцца невядомыя старонкі гісторыі народа, выяўляюцца забытыя словы роднай мовы, словы чужых і нават «мёртвых» моў, помнікі матэрыяльнай культуры, былыя арэалы рассялення таго ці іншага віду жывёл ці раслін, радовішчы карысных выкапняў, высвятляюцца некаторыя супярэчлівыя пытанні паходжання і міграцыі народаў, іх рассялення на зары гісторыі і многае іншае.

*Літ.:* Бірыла М. В., Лемцюгова В. П. Беларуская анамастыка: Тапаніміка // Бел. лінгвістыка. Мн., 1973. Вып. 3; Іх жа. Працы па беларускай анамастыцы (1955—1975): Бібліягр. ўказ. // Беларуская анамастыка. Мн., 1977; Іх жа. Працы па беларускай анамастыцы: Бібліягр. ўказ. (1976—78 гг. і дапаўненні да бібліяграфіі 1955—75 гг.) // Тамсама. Мн., 1981; Іх жа. Працы па беларускай анамастыцы: Бібліягр. ўказ. (1979—84) // Тамсама. Мн., 1985. Вып. 3; Іх жа. Працы па беларускай анамастыцы. Бібліягр. ўказ. (1986—1991) // Тамсама. Мн., 1992; Имя нарицательное и собственное. М., 1978; Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа. Мн., 1990.

*В. П. Лемцюгова.*

## АНАНІМНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА КАНЦА 18— 1-й ПАЛАВІНЫ 19 ст. І ЯЕ МОВА

Ананімнасць часткі твораў беларускамоўнай літаратуры Беларусі ў канцы 18—1-й палавіне 19 ст. абумоўлена галоўным чынам статусам беларускай мовы. Вядома, што пасля 1696 г., калі паводле рашэння Варшаўскага сейма справаводства ў Вялікім княстве Літоўскім пераводзілася на польская мова. Ужываліся лацінская ступова выходзіла з ужытку і ў іншых грамадскіх сферах. Мовай справаводства і культуры на Беларусі стала польская мова. Ужываліся лацінская і мовы еўрапейскіх народаў. А пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, калі ў канцы 18 ст. Беларусь трапіла пад уладу царскай Расіі, у якасці дзяржаўнай у пэўных сферах пачала сцвярджацца і мова руская. Месца для мовы бяспраўнага беларуса ў афіцыйных сферах не было. У 18 ст., асноўным мастацкім метадам якога быў класіцызм, мова простага народа не падыходзіла для мастацкіх твораў і па канонах стылю. Яе выкарыстоўвалі толькі аўтары некаторых польскіх твораў для ўзмацнення камічнага ці парадыйнага эфекту.

Беларуская мова была мовай побытавага ўжытку сялян, бяднейшай шляхты і месгачкоўцаў. Да яе толькі эпізадычна звярталіся асобныя прадстаўнікі «вышэйшых» саслоўяў у сваіх зносінах з сялянствам ці рамеснікамі. На гэтай мове народ не толькі гутарыў, але спяваў свае песні, складаў прыпеўкі, байкі, казкі. Асноўнымі стваральнікамі новых твораў былі пісьменныя выхадцы з «ніжэйшых» слаёў, якія жылі адным жыццём з працоўным народам. Творы іх былі,па сутнасці, вынікам творчасці саміх працоўным народам. Творы іх былі, па сутнасці, вынікам творчасці саміх хам або перапісваліся аматарамі, станавіліся фальклорнымі. Самі аўтары заставаліся, як правіла, невядомымі. Гэта значыць — творы былі ананімнымі.

З ростам антыпрыгонніцкага і нацыянальна-вызваленчага руху, з пашырэннем ідэй рэвалюцыйнага рамантызму, з ростам рэвалюцыйных выступленняў (дзекабрысты, паўстанне 1830—31 гг. у Польшчы і на Беларусі, рэвалюцыйна-дэмакратычны рух, які прывёў да паўстання 1863—64 гг.) частка творчай інтэлігенцыі з «вышэйшых» слаёў таксама пачала звяртацца да мовы простага народа. Некаторыя з іх нават паспрабавалі пісаць па-беларуску (Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі, І. Легатовіч, Ф. Савіч, Адэля з Устроні, Г. Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі, В. Каратынскі, В. Дунін-Марцінкевіч і іншыя). Але і ў гэты час шмат твораў, асабліва парадыйна-сатырычных і антыцарскіх, заставаліся ананімнымі. Яны таксама распаўсюджваліся вусным і рукапісным шляхам, як і фальклор. Пазней некаторыя з іх траплялі на пяро збіральнікаў народнай творчасці, часам у друк і часткова дайшлі да нас. Час стварэння многіх з іх застаўся невядомы.

У тых нешматлікіх ананімных творах канца 18—1-й палавіны 19 ст., якія дайшлі да нас, знайшлі водгук палітычныя падзеі таго часу («Разгавор імператрыцы з Ільгештромам лістоўны дня 28 апрыла 1794 г.», «Песня беларускіх жаўнераў 1794 года», «Быў на Русі Чорны бог», «Із-за Слуцка, із-за Клецка», «Віншаванне Савасцея»), на іх адбіўся побытава-маральны стан нашага сялянства («Чалом, чалом, ацец татулька», «Вось цяпер якім люд стаў»). Высокага развіцця дасягнуў бурлескны стыль. Часта парадзіруюцца біблейскія сюжэты («Стары Восіп барадаты», «Прачыстая сярод ночы...» і інш.). Вяршыняй парадыйнай паэзіі гэтага часу з'яўляюцца паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» (гл. **Парадыйна-сатырычныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»**).

Адносна мовы большасці ананімных твораў неабходна памятаць, што тут мы маем справу і з мовай аўтара твора, і з мовай асяроддзя, у якім твор жыў, што да гэтай мовы прыклалі руку збіральнікі-фалькларысты і публікатары твора, асабліва ў наш час. Многа моўных асаблівасцей страчана і пры транслітарацыі твораў, напісаных лацінкай на кірыліцкі алфавіт (напрыклад, «Энеіды...» у «Маяку»). Нават вядомыя публікацыі аднаго і таго ж ананімнага твора не з'яўляюцца ідэнтычнымі. Для параўнання прывядзём радкі з «Энеіды навыварат»: *И такъ зробіуши ёнъ чаунокъ,— // Траянцами яго набіу // И у моря синяе пусціу* («Маяк». Т. 23, 1845); *И, швидко зробивши челнокъ, // Траянцами его набивъ // И въ море съ ними іонъ поплывъ* («Смоленский вестник». 1890. № 37).

Таму нельга адносіцца да твора, які дайшоў да нас у пазнейшай публікацыі, як да аўтэнтычнага і разглядаць кожную моўную з'яву як першапачатковую. Але тым не менш у агульным плане можна вызначыць месца ананімных твораў адзначанага перыяду ў працэсе складвання беларускай літаратурнай мовы.

Тое, што гэтыя творы ўзнікалі ва ўмовах адсутнасці пісьмовых традыцый, накладвала на іх адбітак. Кожны твор, хоць у рознай ступені, выяўляе сувязь з гаворкай, якой валодаў яго аўтар. Напрыклад, «Разгавор імператрыцы...», «Ой, калі б калі», часткова «Із-за Слуцка, із-за Клецка» і «Быў на Русі Чорны бог» па мове належаць да паўднёва-заходняй Беларусі: у іх побач з тыпова беларускімі з'явамі, такімі, напрыклад, як дзеканне і цеканне *(вісеці, ѣдзѣ, цепер)*, сустракаюцца і рысы ўкраінскія *(відомост, гетманів, колы, під Краков, пришлы, щоб)*. «Песня беларускіх жаўнераў...» у тым выглядзе, у якім яна дайшла да нас, прадстаўляе цэнтральную гаворку заходняга варыянта. Тут і недысіміляцыйнае аканне *(закавалі, сабакі)*, і дзеканне, і цеканне *(годзі, дзесятнікі, у хаце)*, і цвёрдае *р (крыўду, прызнаюць)*, а таксама частковае захаванне ненаціскнога *о (прадаваймо)*, ужыванне спецыфічнай формы *(дамо)* і паралельных форм, уласцівых паўночна-ўсходнім і паўднёва-заходнім гаворкам *(памагае, вертаець)* і інш. Акрамя таго, у «Разгаворы імператрыцы...» і «Песні беларускіх жаўнераў...» сустракаюцца і асобныя паланізмы *(адзыскаем, помоц, Рачыньской)*. Большая частка названых ананімных твораў таго часу, у тым ліку «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», напісаны (або запісаны) на паўночна-ўсходняй гаворцы. Пра гэта сведчаць такія ўласцівыя ім рысы, як наяўнасць выпад-

каў дысіміляцыйнага акання і якання *(буццымъ, ина, паміць, разбогаціцць, с Сапроным, спыткала)*, адрозненне цвёрдага і мяккага *р (барышня, ветры, гутарку, чемірь — варюга, впрягі, падаріу, моря)*, захаванне заднеязычных перад галоснымі пярэдняга раду *(к жёнке, по шклянке, пякець, спрягі)*, ужыванне канчаткаў *-ець (-іць)* у дзеясловах 3-й асобы цяперашняга і будучага часу *(берець, будзець, гуляцць, ляпнець, хапаець)*, поўных канчаткаў прыметнікаў і займеннікаў мужчынскага роду *(бедный, вялізный, другій, нагій, такій, трудный)*, канчаткаў *-эй (-ей)* у родным склоне займеннікаў жаночага роду *(жаднэй звадкі, якей увагі)* і інш.

Адсутнасць пісьмовай традыцыі і друкаванага органа, які б уніфікаваў правапіс беларускіх твораў, была прычынай таго, што аднастайнасць правапісу не вытрымлівалася нават у публікацыі аднаго твора. Таму мова ананімных твораў 1-й палавіны 19 ст. не ўніфікаваная, з мноствам варыянтаў напісання і граматычных форм.

Прадстаўніцтва розных гаворак у беларускай ананімнай, як і ў аўтарскай, літаратуры таго часу сведчыць, што новая беларуская літаратурная мова з самага пачатку складвалася на шырокай дыялектнай аснове. Пакуль ананімныя творы існавалі і перадаваліся ў вуснай форме, яны праз канкрэтныя гаворкі паднімалі прэстыж усёй беларускай мовы, пашыралі сферу яе ўжытку. Гэтаму спрыяла вялікая папулярнасць такіх твораў, як «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». А пасля надрукавання гэтыя творы таксама прычыняліся да стварэння пісьмовых традыцый, да выпрацоўкі норм сучаснай літаратурнай мовы.

Пры ўсёй неаднастайнасці і непаслядоўнасці перадачы асаблівасцей беларускіх гаворак у друку праз публікацыю літаратурных твораў сцвярджаўся фанетычны прынцып правапісу ў якасці асноўнага для беларускай літаратурнай мовы. Замацоўваліся ў якасці нормы такія пашыраныя фанетычныя рысы, як недысімілятыўнае аканне *(атказаў, гаспадары, многа)*, дзеканне і цеканне *(гонюць, идзець)*, пераход *л* і *в* у *ў* *(зробіўши, не ўзглянець, падплетаў, чужое ўсё)*, падаўжэнне зычных у інтэрвакальным становішчы *(брацціям, зъ ружжа, зрання, на крыллях)*, прыстаўныя зычныя *(ні воднага)* і інш.

Адбываўся таксама адбор характэрных для большасці беларускіх гаворак такіх марфалагічных з'яў, як, напрыклад, ужыванне поўных форм дзеепрыслоўяў *(зрабіўшы, схапіўшы)*, канчатка *-е* ў месным склоне назоўнікаў жаночага роду *(у школе)*, няпоўнага канчатка ў родным склоне прыметнікаў жаночага роду *(да цэльнай ночы)* і інш.

Адлюстроўваючы паўсядзённае жыццё беларускага селяніна, ананімныя творы канца 18 — пачатку 19 ст. ўвялі ў літаратурны ўжытак вялікую колькасць спецыфічных беларускіх слоў. Гэта і вузкія дыялектызмы *(вапер, кавярзенькі, сачні)*, і словы больш шырокай распаўсюджанасці з прадметна-побытавай сферы *(бялізна, загнет, золак, істужка, клець, люстра, ружа)*, са сферы грамадскіх адносін *(апякун, батрак, жаўнер, здрада, паўстанне, рэдактар)*, абстрактная і дзеяслоўная лексіка *(аказія, віншаваць, гадка, дзякаваць, намаляваць, пільнаваць, ужываць, фантазія, шанаваць)*.

Такім чынам, ананімныя творы (у вытоках сваіх аўтарскія) разам з творамі вядомых аўтараў закладвалі падваліны новай беларускай літаратуры і сучаснай літаратурнай мовы.

*Літ.:* Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3, вып. 3. П., 1922; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2. Мн., 1969; Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971; Яго ж: Пошукі імя. Мн., 1978; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастр. перыяд. Ч. 1. 2 выд. Мн., 1989; Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984; Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя / Склад. А. А. Лойка, В. П. Рагойша. 2 выд. Мн., 1988. *І. І. Крамко.*

## АНІЧЭНКА УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ



Беларускі мовазнавец У. В. Анічэнка нарадзіўся 20 ліпеня 1924 г. ў в. Янаўка Хоцімскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1952 г. скончыў БДУ. Доктар філалагічных навук (1970). Прафесар (1971). З 1955 г. працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, з 1970 г.— у Гомельскім дзяржаўным універсітэце, загадчык кафедры беларускай мовы. Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь (1976), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь 1988 г. за комплекс прац 1966—88 гг. «Скарыніяна».

Найбольш значныя працы прысвяціў гісторыі беларускай мовы, беларуска-ўкраінскім старажытным моўным сувязям, параўнальнай граматыцы ўсходнеславянскіх моў і беларускай лексікаграфіі. Аўтар манаграфіі «Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі» (1969), «Слоўніка мовы Скарыны» (т. 1—2, 1977—84), вучэбных дапаможнікаў для філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў «Марфалогія ўсходнеславянскіх моў. Назоўнік. Дзеяслоў. Прыслоўе» (1973), «Гістарычная лексікалогія ўсходнеславянскіх моў» (1978), «Гістарычная фанетыка ўсходнеславянскіх моў» (1982), «Мовы ўсходніх славян» (1989), сааўтар калектыўных прац «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (1970), «Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны», якія апублікаваны ў штогодніку «Беларуская мова» (вып. 3—9, 1975 — 1981), «Народная лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры» (1983), «Беларуска-іншаславянскі сінкрэтызм мовы выданняў Францыска Скарыны» (1988). Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле падрыхтаваны да друку «Слоўнік мовы Янкі Купалы». У. В. Анічэнка выдаў са сваімі прадмовамі і навуковымі каментарыямі рукапісы помніка старой беларускай пісьменнасці «Александрыя» (1962) і зборніка 19 ст. «Беларускі казачны эпас» (1976). Ён адзін са складальнікаў хрэстаматый «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы» (ч. 1—2, 1961—62) і «Пісьменнік і мова» (1962). Галоўны рэдактар штогадовага рэспубліканскага міжведамаснага зборніка «Беларуская мова» з пачатку выдання (1973).

*Тв.:* Граматыка Л. Зізанія // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1957. № 4; Асаблівасці значэння і ўжывання перфекта ў беларускай пісьменнасці XV—XVI стст. // Даследаванні па беларускай і рускай мовах. Мн., 1958; Рэшткі аорыста ў беларускай пісьменнасці XV—XVI стст. // Труды по языкознанию (БГУ). Мн., 1958. Вып. 1; Формы плюсквамперфекта ў беларускай пісьменнасці XV—XVI стст. // Уч. зап. (Мозыр. гос. пед. ин-т). 1958. Вып. 1; Назіранні над формамі імперфекта ў старажытнай беларускай пісьменнасці // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. 1960. Вып. 7; Некаторыя пытанні развіцця беларускай мовы ў XVIII стагоддзі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1961. № 4; Беларусізмы ва ўкраінскай пісьменнасці XV—XVII стст. // Тамсама. 1968. № 4. Вопросы разграничения белорусских и украинских памятников // Сов. славяноведение. 1965. № 6; Скарынінскія традыцыі на Украіне // 450 год беларуска-




**Працы У. В. Анічэнкі.**

га кнігадрукавання. Мн., 1968; Уласнабеларуская лексіка // Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970; Украінізмы ў беларускай пісьменнасці XV—XVII стст. // Slavia (Praha). 1975. № 4; Помнікі беларускай дзелавой мовы XVIII ст. ў бібліятэках Польскай Народнай Рэспублікі // Бел. мова. Мн., 1978. Вып. 6; Складаныя словы ў мове Скарыны // Тамсама. Мн., 1980. Вып. 8; Функцыянальна-структурнае развіццё гутарковага слова // Тамсама. Мн., 1981. Вып. 9; Гісторыя функцыяніравання беларускай мовы // Тамсама. 1983. Вып. 11; Асноўныя працэсы развіцця дыялектнай лексікі // Тамсама. Мн., 1985. Вып. 13; Лёс старажытнарускай лексікі скарынінскай эпохі ў сучаснай беларускай мове // Тамсама. 1986. Вып. 14; Беларускія і паралельныя элементы ў сістэме лексікі польскай мовы // Тамсама. Мн., 1988. Вып. 16; Беларуска-царкоўнаславянскі сінкрэтызм друкаваных выданняў Скарыны // Тамсама. Мн., 1989. Вып. 17; Развитие белорусского литературного языка в XVIII в. // Вопр. языкознания. 1978. № 4; Лексічная дзейнасць Скарыны // Питання східнослов'янськоі лексикографії XI — XVII ст. Київ, 1979; Функциональное развитие белорусского литературного языка // Slavika slovaca (Praha). 1982. Вып. 17, ч. 3; Вывучэнне мясцовай разнавіднасці кніжнаславянскай мовы ў граматыцы М. Сматрыцкага // Східнослов'янські граматики XVI — XVII ст. Київ, 1982; Отражение диалектных явлений в старобелорусской письменности // Вопросы диалектологии и истории языка. Душанбе. 1984; Лингвистическое новаторство виленских изданий Скорины // Kalbotyra (Vilnius). 1986. Т. 37 (2); Языковая ситуация в Белоруссии во времена Великого княжества Литовского и Речи Посполитой // Тамсама. 1988. Т. 39(2); Роля Скарыны ў дэмакратызацыі кніжнаславянскай мовы //Slavia (Praha). 1987. № 56, ч. 2; Лінгвістычнае наватарства Скарыны ў дэмакратызацыі кніжнаславянскай мовы // The Journal of Byelorussian Studies. 1988. Vol. 6, № 1. *І. К. Германовіч.*

## АНТАНІМІЯ

Каб спасцігнуць сутнасць антаніміі, разгледзім некалькі сказаў: *Ад вясны вясёлай, ранняй // Да восені позняй // Пяе поле трактарамі // Весела, пагрозна* (Я. Колас); *Адна за адной прагрукаталі з далёкіх і блізкіх рэйсаў калгасныя аўтамашыны* (У. Краўчанка). Параўнаем пары слоў *ранні — позні, далёкі — блізкі,* якія ўжылі аўтары. Як бачым, гэтыя словы належаць да адной часціны мовы — прыметніка і маюць процілеглае значэнне. Семантычная процілегласць, процінастаўленасць у маўленні і ёсць антанімія, а самі словы — антонімы.

А н т о н і м ы (грэч. anti супраць, onyma імя) — пары слоў з процілеглым значэннем. Яны выражаюць суадносныя паняцці, што належаць да аднаго рада з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці, якія ў лексіцы перадаюцца праз адну тэматычную групу (напрыклад: *мір — вайна, святло — цемра, вясёлы — сумны, правы — левы, вялікі — малы, белы — чорны, пабудаваць — разбурыць, верх — ніз, тут — там, рана — позна, многа — мала*). Антанімічныя пары належаць да адной часціны мовы: назоўнікаў *(дабро — зло, ранак — вечар),* прыметнікаў *(шырокі — вузкі, салодкі — горкі),* дзеясловаў *(пачынаць — канчаць, браць — аддаваць),* прыслоўяў *(далёка — блізка, цёпла — холадна).* Па сваёй структуры антонімы дзеляцца на аднакарэнныя і рознакарэнныя: *замкнуць — адамкнуць, гуманны — антыгуманны, прыемна — непрыемна; можна — нельга, упоперак — удоўж, сумны — вясёлы, свой — чужы.* Аднакарэнным антонімам процілеглае значэнне надаюць словаўтваральныя фарманты.

Антонімы бываюць поўныя, няпоўныя (частковыя) і кантэкстуальныя. П о ў н ы я а н т о н і м ы адрозніваюцца ўсімі сваімі значэннямі: *будаваць — разбураць.* ***Добрая*** *слава людзей збірае, а* ***дрэнная*** *— разганяе* (Прыказка); *І ў* ***белы*** *дзень і ў* ***чорну*** *ноч я ўсцяж раблю агледзіны* (Я. Купала). Ч а с т к о в ы я а н т о н і м ы маюць няпоўную сэнсавую процілегласць і супастаўляюцца па адным або некалькіх значэннях. Так, слова *радасць* толькі ў значэнні 'пачуццё вялікай асалоды, задаволенасці' супрацьпастаўляецца слову *смутак* у сэнсе 'пачуццё суму, маркоты, жалю'. Сэнсавая процілегласць слоў к а н т э к с т у а л ь н ы х а н т о н і м а ў успрымаецца толькі ў пэўнай сітуацыі моўных зносін: *І* ***радасць*** *— ніякая радасць, а* ***горыч,*** *//І* ***песня*** *— ніякая песня, а* ***скарга,*** *// І* ***страва*** *— ніякая страва, а* ***камень,*** *// І* ***брага*** *— ніякая брага, а* ***слёзы,*** *// І* ***сонца*** *— ніякае сонца, а крыга,— // Калі ты на свеце ўсім гэтым // Не маеш з кім падзяліцца* (М. Танк).

Антонімамі бываюць часцей тыя словы, што перадаюць якасную прыкмету, якая можа ўзрастаць ці ўбываць і даходзіць да процілеглага, або ўласцівасць *(хуткі — павольны, цвёрды — мяккі),* процілегла накіраваныя дзеянні *(апусціцца — падняцца),* прасторавыя і часавыя адносіны *(верх — ніз, рана — позна),* стан *(хвароба — здароўе),* колькасныя адносіны *(многа — мала),* ацэнку *(праўда — хлусня).*

Адно і тое ж слова можа ўтвараць некалькі пар антонімаў, што абумоўлена яго мнагазначнасцю, наяўнасцю сэнсавых адценняў. Напрыклад, прыметнік *свежы* мае наступныя значэнні: 1) толькі што прыгатаваны: *І адкуль на стале тваім // Бохан свежага хлеба пахучы* (Р. Барадулін); 2) некрануты апрацоўкай (саленнем, вэнджаннем, кансерваваннем): *свежая рыба, свежыя агуркі;* 3) халаднаваты, досыць халодны: *свежы вецер; Раніца была свежая, і буйная раса шчыпала босыя ногі* (А. Чарнышэвіч); 4) новы, арыгінальны, упершыню выказаны, сфармуляваны: *свежая думка, свежая рыфма.*

Да першага са значэнняў прыметніка *свежы* антонімам будзе слова *чэрствы,* да другога — *салёны, закансерваваны, вэнджаны,* да трэцяга — *цёплы, душны,* да чацвёртага — *стары, збіты, шаблонны.*

Прыметнік *блізкі* таксама ўтварае розныя антанімічныя пары ў залежнасці ад значэння: *блізкі — далёкі* (лес), *блізкі — чужы* (чалавек), *блізкая — непадобная* (тэма).

Антонімы — важныя лексічныя і стылістычныя сродкі мовы, таму яны часта ўжываюцца ў вуснай народнай творчасці, мастацкай літаратуры, публіцыстыцы. На аснове антонімаў будуюцца антытэза і аксюмаран:

*горкая радасць, белая варона, гучная цішыня; **Багаты** і ў будзень **піруе**, а **бедны** і ў свята **гаруе*** (Прыказка); ***Бяда** і **радасць** ходзяць побач вечна, Людзей ратуе толькі чалавечнасць* (П. Панчанка); *Ты — маё **шчасце** і **пакута**, // **Радасць** і шчымлівы дайні **боль**, // Гаркаваты пах даспелай руты, // **Мёд** у сотах і на ране **соль*** (С. Грахоўскі).

Паколькі антонімы сваім значэннем цесна звязаны паміж сабой, яны выкарыстоўваюцца побач адзін з адным для стварэння кантрастных характарыстык асоб, прадметаў і падзей, для проціпастаўлення і параўнання з'яў, для ўзмацнення сэнсу думкі. ***Дзень** і **ноч** шуміць прыбой* (А. Звонак); ***Малы** жук, ды **вялікі** гук* (Прыказка); *Слову **жывому** — на глебу ўрадлівую, // **Мёртваму** слову — на камень, на жвір, // **Шчыраму** сэрцу — долю шчаслівую, // **Чэрстваму** сэрцу — балота і вір* (С. Дзяргай).

Антанімічныя адносіны могуць устанаўлівацца паміж некаторымі прыназоўнікамі з прасторавым значэннем: *ад лесу — да лесу, над страхой — пад страхой, з хаты — у хату* і г. д.

Не маюць антонімаў словы з канкрэтным значэннем *(шафа, бяроза, стадыён)*, вузкаспецыяльныя тэрміны *(афікс, пігмент)*, уласныя імёны *(Васіль, Нёман)*, лічэбнікі *(два, чатыры)*, займеннікі і службовыя словы.

Сукупнасць антонімаў мовы, а таксама раздзел лексікалогіі, які вывучае антонімы, называюцца а н т а н і м і к а й.

*Літ.:* Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фразеалогія. Лексікаграфія. Фразеаграфія. Фаналогія. Арфаэпія. Графіка і арфаграфія. Мн., 1976; 2 выд. 1984; Б у р а к Л. І. Сучасная беларуская мова. 2 выд. Мн., 1985; Беларуская мова. Мн., 1986. *Г. К. Усціновіч.*

## АНТАНОВІЧ АНТОН КАНСТАНЦІНАВІЧ



Беларускі мовазнавец А. К. Антановіч нарадзіўся 6 чэрвеня 1910 г. ў в. Казлы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. У 1950 г. скончыў філалагічны факультэт Вільнюскага універсітэта. Доктар філалагічных навук (1969). Працаваў выкладчыкам рускай мовы ў Вільнюскім універсітэце. Памёр 27 снежня 1980 г.

Кандыдацкая дысертацыя А. К. Антановіча прысвечана мове судовай (актавай) кнігі Ковенскага земскага суда 1566—67 гг. Тэмай доктарскай дысертацыі А. К. Антановіч абраў помнікі татарска-мусульманскага пісьменства на беларускай мове. Вынікі гэтага даследавання выкладзены ў кнізе «Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма» (1968). Названыя пісьмовыя помнікі звязаны сваім паходжаннем з татарамі, якія аселі на Беларусі і ў Літве ў 14—16 ст.

У архівах, бібліятэках, музеях і ў прыватных асоб А. К. Антановіч выявіў 24 рукапісныя кнігі 17 — пачатку 20 ст., напісаныя на беларускай




**А. К. Антановіч. «Беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом» (вокладка). 1968.**

мове арабскім пісьмом, сярод іх 8 кітабаў (гл. **Кітабы**). У манаграфіі даследчык даў класіфікацыю гэтых помнікаў па месцы захоўвання, па жанравай прыналежнасці, ахарактарызаваў аб'ём і стан захавання кожнага помніка, прывёў звесткі і меркаванні пра час і месца яго ўзнікнення. Вялікую ўвагу ўдзяліў аналізу графікі, арфаграфіі, граматычнага ладу, лексічных асаблівасцей тэкстаў, падрабязна разгледзеў спосабы перадачы на пісьме зычных і галосных гукаў беларускай мовы арабскімі літарамі. Тут выкладзена і распрацаваная даследчыкам сістэма транслітэрацыі арабскага пісьма ў сучаснае беларускае. Усе назіранні і вывады праілюстраваны фотакопіямі арыгіналаў і ўзорамі іх транслітэраваных тэкстаў. Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, упершыню ўсебакова і глыбока даследаваныя А. К. Антановічам, маюць вялікае значэнне для літаратуразнаўства і мовазнаўства. Яны пашыраюць наша ўяўленне аб старажытных помніках беларускага пісьменства, даюць многа карысных фактаў пра суадносіны беларускай літаратурнай і жывой гутарковай мовы на розных этапах развіцця, пра фанетычныя, граматычныя і лексічныя асаблівасці розных беларускіх народных гаворак.

*Тв.:* Вопросы фонетики белорусского актового языка XVI в.: По материалам судебной (актовой) книги Каунасского земского суда 1566—1567 гг. //Уч. зап. (Вильнюсский гос. ун-т). 1960. Т. 30. Языкознание, вып. 2; Графика и орфография судебной (актовой) книги Каунасского земского суда 1566—1567 гг. // Изв. высш. учеб. завед. ЛитССР. 1961. Т. 3. Языкознание; К вопросу об отношении лексики китабов к лексике белорусской деловой письменности XV—XVII вв. // Программа и тезисы межресп. конференции по изучению лексики старобелорусских письменных памятников XV—XVII вв. 15—16 мая 1964 г. Вильнюс, 1964.

*Літ.:* Ж у р а ў с к і А. І. Беларуская мова ў мусульманскай літаратуры // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1969. № 4. *І. К. Германовіч.*

## АНТАНЮК ЛЮБОЎ АДАМАЎНА

Беларускі мовазнавец Л. А. Антанюк нарадзілася 28 красавіка 1949 г. ў в. Ломыш Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. У 1970 г. скончыла Мазырскі педагагічны інстытут. Доктар філалагічных навук (1992). У 1974—80 гг. малодшы, 1980—91 гг. старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі, з 1991 г. дацэнт кафедры беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта.

Асноўныя кірункі навуковых даследаванняў Л. А. Антанюк — граматычныя катэгорыі беларускай мовы, тэорыя поля ў граматыцы, лексіка-граматычныя палі ў беларускай мове, лексікалогія, мова мастацкіх твораў, культура мовы і маўлення, словаўтварэнне, тэрмінаўтварэнне, станаўленне, развіццё, структура, упарадкаванне, праектаванне і функцыяніраванне сучаснай беларускай тэрміналогіі.

Л. А. Антанюк — аўтар больш як 70 навуковых прац. Граматычны лад



сучаснай беларускай мовы — галоўная тэма яе манаграфіі «Станавыя значэнні сумеснасці і ўзаемнасці ў сучаснай беларускай літаратурнай мове» (Мн., 1981), раздзелаў «Сінанімія словазлучэнняў», «Сінанімічныя сінтаксічныя канструкцыі» і інш. у «Беларускай граматыцы» (Мн., ч. 2, 1986). Пры вывучэнні граматычных значэнняў даследчык выяўляе не толькі іх формы, але і ўсе моўныя сродкі іх выражэння: марфалагічныя, сінтаксічныя, словаўтваральныя, лексіка-граматычныя [Вывучэнне беларускай мовы і сучасная методыка даследавання моўных аб'ектаў (Тэорыя поля ў граматыцы) // Праблемы грамадскіх навук. Эканоміка, гісторыя, культура. Мн., 1973]. Упершыню ў мовазнаўстве яна вылучыла і апісала шматлікія рознаўзроўневыя сродкі выражэння катэгорыі стану. Напрыклад, у канструкцыі *Грыша з Міколам абнялі адзін аднаго* значэнне ўзаемнасці дзеяння згодна з абгрунтаваннем Л. А. Антанюк звязана: з марфалагізаваным спалучэннем *адзін аднаго*, з семантыка-сінтаксічнымі асаблівасцямі дзеяслова *абнімаць*, з наяўнасцю сродкаў выражэння двух выканаўцаў дзеяння: спалучэнне назоўнікаў назоўнага і творнага склонаў з прыназоўнікам *з*, з множным лікам дзеяслова *абнялі*, з адушаўлёнасцю назоўнікаў, якія абазначаюць выканаўцаў дзеяння.

У выніку аналізу гістарычнага фарміравання тэрміналогіі, пачынаючы ад помнікаў пісьменства 14—17 ст. да нашага часу, Л. А. Антанюк прыходзіць да вываду, што пераважная большасць тэрмінаў захавалася ў беларускай літаратурнай мове, што аснову сучаснай тэрміналогіі складаюць лексічныя і словаўтваральныя сродкі беларускай мовы (Развіццё і праблемы ўпарадкавання беларускай навуковай тэрміналогіі // Тэрміналагічны зборнік'83. Мн., 1985). Аналізуючы спосабы і сродкі сучаснага словаўтварэння, Л. А. Антанюк абгрунтоўвае неабходнасць максімальнага выкарыстання аднаслоўнай тэрміналагічнай намінацыі (Узаемадзеянне вытворнага слова і дэрывацыйнага словазлучэння ў тэрміналогіі // Словаўтварэнне і намінатыўная дэрывацыя ў славянскіх мовах. Гродна, 1986). Упершыню ў тэрміназнаўстве Л. А. Антанюк абгрунтоўвае неабходнасць выкарыстання праектыўнай дзейнасці ў працэсе стварэння аптымальных тэрміналагічных сістэм, вылучае дзве процілеглыя тэндэнцыі: бурнае развіццё тэрміналогіі ў асобных нацыянальных мовах і яе збліжэнне на аснове павелічэння інтэрнацыянальнага тэрміналагічнага фонду, размяжоўвае развіццё паняційна-тэрміналагічнага фонду і ўдасканаленне моўнага афармлення (Беларуская навуковая тэрміналогія: Фарміраванне, структура, упарадкаванне, канструяванне, функцыяніраванне. Мн., 1987), вылучае важнейшыя фактары пры стварэнні новых тэрмінаў.

Л. А. Антанюк займаецца аналізам тэрміналагічнай работы ва ўмовах нацыянальнага адраджэння, вызначае яе асноўныя рысы, спосабы і сродкі стварэння новых тэрмінаў, месца тэрміналогіі ў лексічнай сістэме беларускай мовы (Беларускае тэрміназнаўства ў новых умовах // Тэрміналагічны зборнік'90. Мн., 1993). Яна саўтар «Руска-беларускага слоўніка лінгвістычных тэрмінаў» (Мн., 1988) і «Слоўніка лінгвістычных тэрмінаў» (Мн., 1990). Першы з іх значна папаўняе паняційна-тэрміналагічны фонд беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі, павышае ступень яе ўнармаванасці. Другі ўключае не толькі самі тэрміны, а і іх *азначэнні*, што ўпарадкоўвае лінгвістычныя паняцці і тэрміны ў адпаведнасці з новымі дасягненнямі навукі.

Л. А. Антанюк — вучоны сакратар і старшы навуковы супрацоўнік Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі (з 1980), навуковы рэдактар афіцыйнага органа гэтай камісіі — «Тэрміналагічнага зборніка» (Гл. **«Тэрміналагічны зборнік»**). Яна член Міжнароднай арганізацыі па уніфікацыі тэрміналагічных неалагізмаў (МАУТН), віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі тэрміналагічных банкаў (МФТБ), член рэдкалегіі часопіса «Neoterm» — афіцыйнага органа МАУТН.

*Тв.:* Семантыка-сінтаксічныя функцыі спалучэння *адзін аднаго* ў сучаснай беларускай літаратурнай мове // Бел. лінгвістыка. 1972. Вып. 2; Якуб Колас і беларуская навуковая тэрміналогія //Тамсама. 1983. Вып. 22; Праблема даследавання навуковага стылю беларускай мовы // Тамсама. 1984. Вып. 25; Граматычныя і функцыянальна-семантычныя асаблівасці зваротных дзеясловаў сумеснага і ўзаемнага дзеяння ў сучаснай беларускай мове // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1973. № 3; Залоговое значение взаимности и проблема «скрытой» грамматики: На материале белорусского языка (разам з А. Е. Міхневічам) // Проблемы теории грамматического залога. Л., 1978; Лингвистическое упорядочение белорусской научной терминологии и проблемы интернационализации терминологической лексики // Mokslo kalbos kultūros ir terminologўos Problemos. Vilnius, 1985; Асаблівасці ўпарадкавання навуковай тэрміналогіі ва ўмовах беларуска-рускага двухмоўя // Тэрміналагічны зборнік'84. Мн., 1986; Праблемы намінатыўнай дэрывацыі ў сучаснай беларускай тэхнічнай тэрміналогіі (на матэрыяле тэрміналогіі па вылічальнай тэхніцы) // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках. Гродно, 1992.

*Л. М. Маліна.*

## АНТРАПАНІМІКА

Антрапаніміка (ад грэч. ánthrōpos чалавек і ónyma імя) — раздзел анамастыкі (гл. **Анамастыка**), які вывучае антрапонімы (асабовыя імёны людзей, імёны па бацьку, прозвішчы, мянушкі, псеўданімы), іх паходжанне, структуру, сацыяльнае функцыяніраванне і геаграфічнае пашырэнне, а таксама сукупнасць асабовых імёнаў пэўнай тэрыторыі — антрапанімію.

Асабовае імя — афіцыйнае найменне, якое даецца чалавеку пры нараджэнні. Зараз імя дзіцяці выбіраюць бацькі. Але нават у адносна недалёкім мінулым імя давалася ў царкве ці касцёле ў адпаведнасці з іменем святога, якое прыпадала на гэты дзень (чытай верш Ф. Багушэвіча «Кепска будзе!»). Большасць грамадзян нашай краіны маюць адно імя, якое ўжываецца ў дзвюх формах: афіцыйнай *(Аляксандр, Кацярына)* і ў размоўна-бытавой *(Алесь, Саша, Кацяу)*. У многіх народаў Поўначы, Далёкага Усходу і Сярэдняй Азіі ў выніку суіснавання ранейшай сістэмы імён і новай ва ўжытак увайшлі «другія» імёны. Два імені прысвойваюцца дзецям паводле абрадаў каталіцкай царквы: Марыя-Магдалена, Разалія-Эльжбета. У большасці народаў Афрыкі, у кітайцаў, японцаў, карэйцаў прынята даваць узроставыя імёны. У Карэі хлопчыку пры нараджэнні даецца «дзіцячае імя» (амён), у дарослым узросце — афіцыйнае імя (кванмён), пры ўступленні ў шлюб дабаўляецца імя чжа. У Кітаі паралельна ўжываюцца дзіцячае імя сяо, школьнае — мін, дарослае — цзы. У беларусаў адзначаны выпадкі, калі ўзроставыя змены перадаваліся рознымі формамі аднаго і таго ж імені. У раннім дзяцінстве хлопчыка ласкава называлі *Анцік, Гаўрык, Косцік*, падлетка — *Антук, Гаўрук, Касцюк, Петрык*, дарослага хлопца — *Антось, Гаўрусь, Кастусь, Пятрусь*. Форма імені жанатага мужчыны падкрэслівае сталасць, паважнасць: *Гаўрыла, Міхайла, Пятро, Сайка, Сёмка, Грышка*. Да прыняцця хрысціянства

славяне карысталіся двума тыпамі старажытнарускіх імён: складанымі *(Вітагосць, Дарагабуд, Дамажыр, Любамір, Мсціслаў, Рацібор, Святаполк, Хатавід)* і простымі народнымі *(Ждан, Няждан, Лобан, Нелюб, Пазняк, Стома, Трацяк)*. У імені знаходзілі ўвасабленне пажаданні бацькоў бачыць сына магутным уладаром, смелым, міралюбівым, слаўным, госцем, г. зн. купцом *(Уладыка, Воін, Тварымір, Хацімір, Мірослаў, Расціслаў, Уладзімір, Усевалад, Дабрагосць, Мілагосць)*, вера ў чарадзейную сілу імя *(Воўк, Зубр, Тур)*. У Старажытнай Русі двухсастаўныя імёны, асабліва на *-слаў*, насілі ўдзельныя князі, прадстаўнікі вышэйшай алігархіі. У народным асяроддзі дзіця звычайна атрымлівала імя не адразу пасля нараджэння, а ў больш познім узросце, калі праяўляліся яго фізічныя і разумовыя якасці, асаблівасці характару і паводзін *(Галавач, Дохля, Мацак, Дабрыня, Няпёка, Самахвал, Таміла)*. У некаторых плямён імёны дзецям давалі з улікам татэмных традыцый. Племя, якое лічыла сваім апекуном-татэмам якую-небудзь жывёліну ці прадмет нежывой прыроды, дабаўляла іх назвы амаль да кожнага імя. Практыкаваліся так званыя «падманныя» імёны, каб завуаліраваць станоўчыя рысы і гэтым самым адпужнуць злых духаў і ворагаў *(Гадыш, Нянад, Неўпакой, Няміра, Булгак* — 'неспакойны').

З увядзеннем у 10 ст. хрысціянства царква ў абавязковым парадку ўвяла на Русі праваслаўныя, хрысціянскія кананічныя імёны тыпу *Анастасій, Антоній, Варфаламей, Васілій, Іерафей, Мяфодзій, Агрыпіна, Сцепаніда, Феадора.* Яны прыйшлі з Візантыі, куды ў сваю чаргу трапілі з Рымскай імперыі, а ў яе — з Блізкага Усходу. Для носьбітаў запазычаныя імёны былі чужымі і незразумелымі. Таму многія з іх прайшлі істотную апрацоўку ў вуснай народнай мове. Напрыклад, імя *Іаан* ператварылася ў *Іван, Дзіянісій* — у *Дзяніс, Лаўрэнцій* — у *Лаўрэн, Аўксенцій* — у *Аксён, Яўстафій* — у *Астап, Анісіфар* — у *Нічыпар, Феафілактас* — у *Філат, Іуліянія* — у *Ульяна, Еўдакія* — у *Аўдоцця, Еўфраксінія* — у *Ефрасіння, Феадосія* — у *Фядосся.* Многія з іх у такім выглядзе замацаваліся ў літаратурнай мове. На аснове афіцыйных, каляндарных імёнаў узнікла мноства імён з ацэначным адценнем. Толькі ад аднаго імя *Пётр* іх звыш дзесяці: *Пятрок, Пеця, Пятрусь, Пятрусік, Петрачок, Пятрук, Петрасюк, Пятруха, Пятроша, Пятруша, Пятран, Пятраш, Пяцюль, Пятко* і інш. Да 18 ст., нягледзячы на забарону, побач з царкоўнымі іменамі ўжываліся і нецаркоўныя. Пры жаданні чалавек мог мець два імені — царкоўнае і свецкае *(Апанас Мудрэц, Васілій Астравух, Цімох Бяссон, Радзівон Лось)*.

З узмацненнем уплыву Польшчы на палітычнае і культурнае жыццё Беларусі ў другой палавіне 16 ст. часцей сталі ўжывацца каталіцкія імёны тыпу *Альбін, Баляслаў, Фелікс, Данута, Юзэфа.*

Пасля 1917 года царква стала менш уплываць на імёнаслоўную практыку. Праз мастацкую літаратуру, друк, кіно на Беларусь хлынуў паток замежных імён, такіх, як *Альберт, Арнольд, Артур, Роберт, Рудольф, Эдуард, Аіда, Жанна, Эльвіра.* З'явіліся імёны, штучна ўтвораныя на базе агульных назваў: *Авангард, Альянс, Граніт, Прагрэс, Трактар, Факел, Барыкада, Ідэя, Індустрыя, Ліра, Навела, Энергія, Электрыфікацыя, Эра.* У практыку пачалі часцей пранікаць старажытнарускія імёны: *Руслан, Святаслаў, Славамір, Лада, Рагнеда, Раксана, Святлана.* Рабіліся спробы стварыць зусім новыя арыгінальныя імёны, сугучныя часу: *Акцябрына, Мая.*

Сённяшні іменнік беларусаў істотна змяніўся. Выходзяць з ужытку штучныя імёны, радзей даюцца імёны, запазычаныя з іменнікоў іншых народаў. Усё большую папулярнасць заваёўваюць старыя імёны: *Дзяніс, Іван, Арцём, Ягор, Дар'я, Кацярына, Ірына, Наталля.*

У жыцці асабовых імён назіраюцца ўсплёскі моды. У пачатку 17 ст. да першага дзесяцігоддзя 20 ст. самым распаўсюджаным сярод мужчынскіх імён было *Іван.* У 1930—40-я гады на першае месца сярод жаночых імён выйшла *Валянціна, Марыя,* а зараз — *Кацярына.*

У перыяд станаўлення кожнае імя мела канкрэтны сэнс. Зараз выдзеліць зыходныя словы і значэнні можна толькі шляхам навуковага аналізу. Шмат загадак ужо высветлена. Расшыфраваны сэнс шэрагу імён, якія паходзяць з грэчаскай, лацінскай, старажытнаяўрэйскай, арабскай і іншых моў. З грэчаскай мовы, напрыклад, да нас прыйшлі імёны: *Андрэй* 'мужны', *Аркадзь* 'жыхар Аркадзіі' (жывёлагадоўчая вобласць у Пелапанесе), *Васіль* 'царскі', *Георгій* 'земляроб', *Дзяніс* 'прысвечаны Дзіянісу, богу віна', *Яўген* 'высакародны, прыстойны', *Кірыл* 'уладар, гаспадар', *Настасся* 'уваскрэслая', *Алена* 'сонечная', *Ірына* — імя багіні мірнага жыцця, *Ксенія* 'гасцінная' і многія іншыя. З лацінскай мовы запазычаны імёны: *Віктар* 'пераможца', *Раман* 'рымскі, рымлянін', *Валянцін* 'дужы, здаровы', *Марцін* — імя бога вайны ў рымскай міфалогіі, *Сяргей* — рымскае родавае імя; са старажытнаяўрэйскай — *Іосіф* 'бог прымножыць, бог прыбавіць', *Ева* 'жыццё', *Лізавета* 'бог мой (клятва)'.

Імя па бацьку — элемент поўнага наймення асобы паводле імені бацькі *(Фаміч — Фамічна, Пракопавіч — Пракопаўна)*. Імя па бацьку ўжываецца ў рускіх, украінцаў і беларусаў. У іншых народаў адносіны да бацькі адлюстроўваюцца ў прозвішчы: у нямецкай, англійскай, скандынаўскіх і іншых германскіх мовах словам **son** — сын (англ. *Джонсан,* ням. *Вольфсан,* дацк. *Андэрсен,* нарвеж. *Ібсен,* шведск. *Эрыксан*), у іранскіх словам **задэ** — дзіця, патомак *(Турсун-задэ)*, у цюркскіх словамі **аглы** — хлопчык або **кыз** — дзяўчынка *(Ахмед-аглы, Ахмед-кыз)*.

Імя па бацьку ўзыходзіць да старажытнага патранімічнага наймення (лац. pater бацька), якое ўказвала на паходжанне ад пэўнага пачынальніка роду па лініі бацькі (ці дзеда). На беларускай этнамоўнай тэрыторыі імя па бацьку было адным з важнейшых сродкаў у поўных найменнях асобы і заканчвалася пераважна на *-іч, -овіч, -евіч (Ігнат Кузьміч, Яцко Уласавіч, Конан Майсеевіч)*, радзей на *-оў, -еў, -ін, -енак, -ёнак, -енка (Герасім Іваноў, Грышко Мікіцін, Сямён Глебянок, Селівон Паўленка)*. У Вялікім княстве Літоўскім, у склад якога ўваходзілі беларускія землі, правам насіць патранімічнае найменне на *-іч* карысталіся ўсе жыхары без абмежавання, у той час як у Маскоўскай дзяржаве на гэта мелі дазвол толькі асабліва паважаныя людзі. Сам цар вызначаў асоб, вартых такой пашаны.

Прозвішча — сямейнае спадчыннае найменне, якое дадаецца да імя і імя па бацьку чалавека. У старажытнасці было саслоўнай прывілеяй. Напрыклад, княжацкія і баярскія прозвішчы на тэрыторыі Расіі сфарміраваліся на працягу 14 — сярэдзіны 16 ст., панскія — на працягу 16—17 ст., духоўных асоб — у 18—1-й палавіне 19 ст., а мільёны прыгонных сялян іх не мелі нават у сярэдзіне 19 ст. У Беларусі прозвішчы з'явіліся ў 17—18 ст. Аднак яшчэ ў першай палавіне 18 ст. не было ўстойлівых найменняў з кампанентам тыпу сучасных прозвішчаў. Многія з іх бяруць свой пачатак ад старажытнарускіх дахрысціянскіх імёнаў, якія ў 16—18 ст. усё больш страчвалі функцыю імя і набліжаліся да функцыі прозвішча. Сярод беларускіх прозвішчаў выдзяляюцца простыя *(Гусак, Жук, Каляда, Вярба)*, вытворныя *(Курыловіч, Міхасёў, Кліменка, Зарэцкі)*, складаныя *(Белавусаў, Сяміжон, Чарнабай)*, двайныя *(Бялыніцкі-Біруля, Забэйда-Суміцкі, Карпаў-Мухін)*. Найбольш тыповымі для беларусаў з'яўляюцца прозвішчы на *-овіч (-авіч), -евіч (-эвіч), -іч (Адамовіч, Кругалевіч, Трафімовіч, Жыткевіч, Рамановіч)*, на *-оў (-аў), -ёў (-еў), -ін (-ын) (Цароў, Гулідаў, Бяляеў, Ільін, Батурын), -ёнак (-онак) (Сідаронак, Макаёнак), -енка (-энка), -анка (Аўдзеенка, Анічэнка), -ук, (-юк) (Лукашук, Радзюк), -еня (-эня) (Мікалаеня, Петручэня, Варвашэня), -ейка (-эйка) (Адамейка,*

*Кудрэйка)*. Досыць шырокае распаўсюджанне атрымалі прозвішчы на *-скі, -цкі (Гуліцкі, Беразоўскі, Баранoўскі)*.

Прозвішчы, як і імёны, адлюстроўваюць асаблівасці і якасці, уласцівыя чалавеку: *Моўчан, Піскун, Пагуляй, Шыпіла, Плакса, Шчарбун, Курнос, Сіпач.* Многія з іх указваюць на прафесію продкаў: *Пекар, Рыбак, Пільнік, Мысліввец, Кушнер, Дудар, Калеснік, Рымар, Швец,* на паходжанне з пэўнай мясцовасці: *Мсціславец, Ашмянец, Падлужны, Палянскі, Падгайскі, Загорскі.*

Амаль кожная краіна мае афіцыйна рэгламентаваную іменаслоўную (антрапанімічную) сістэму, побач з якой існуюць паралельныя неафіцыйныя сістэмы (найчасцей бытавыя). Сістэмы імён складваюцца гістарычна і не застаюцца нязменнымі. Напрыклад, у старабеларускіх юрыдычных актах 15—18 ст. адзначаюцца двух-, трох- і чатырохсастаўныя найменні асобы, у якіх на першым месцы стаіць асабовае імя, на другім — імя па бацьку, на трэцім — імя па дзеду, на чацвёртым — назва мясцовасці, імя-мянушка, другое імя мужчыны. Напрыклад, *Андрэй Фёдаравіч, Улас Лукініч, Яцко Канашэвіч; Павел Іванавіч Менчуковіч, Пётр Янавіч Арэфін, Майсей Дзянісаў Пастухоў, Ян Мікалаевіч Каменскі; Леў Федковіч Заневіч Доха, Станіслаў Васкевіч Тофцік Сухадольскі з іменья Сухадола.* Сустракаюцца і іншыя камбінацыі. Зараз прынята трохкампанентная мадэль наймення чалавека (імя, імя па бацьку, прозвішча), якая выпрацавалася на працягу 18—19 ст. у рускіх, украінцаў і беларусаў. У афіцыйнай практыцы яна пашырана на ўсіх грамадзян Беларусі, у тым ліку на тых, якія яшчэ 30—40 гадоў назад не карысталіся ні іменамі па бацьку, ні прозвішчамі. У балгар, палякаў, чэхаў, славакаў іменаслоўная сістэма ўключае імя і прозвішча, у немцаў — імя першае, імя другое і прозвішча. Наогул у краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы прынята даваць пры адным прозвішчы некалькі імён.

М я н у ш к а — неафіцыйнае найменне з інтымна-ласкальным або кплівым ці прыніжальным адценнем. Звычайна ўказвае на якую-небудзь асаблівасць або рысу асобы: *Бабыль, Бірук, Кулак, Бруй, Лабач, Блатун, Гарбуз, Галавень, Журавель, Сарока.* Есць родавыя мянушкі, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне: прадзед — *Калянсік* (вырабляў калёсы), наступныя пакаленні — *Калеснікóвы.* Найчасцей мянушкі ўзнікаюць у мясцовым асяроддзі. Есць выпадкі, калі цэлыя вёскі маюць агульнае прозвішча і толькі адрозніваюцца мянушкамі.

П с е ў д а н і м — прыдуманае найменне, якое замяняе адзін, радзей два і ўсе кампаненты поўнага афіцыйнага наймення ці ўжываецца паралельна. Псеўданімы часта выкарыстоўваюць палітычныя дзеячы, падпольшчыкі. Шэсць псеўданімаў у Веры Захараўны Харужай: *Верка, Вераніка Карчэўская, Алеся Шыпшына, Антолька, Падпольнік, Г. С. Карнілава.* Многія пісьменнікі маюць літаратурныя псеўданімы: Іван Дамінікавіч Луцэвіч — *Янка Купала,* Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч — *Якуб Колас,* Яўген Іванавіч Скурко — *Максім Танк.*

Даследаванне асабовых імён мае навуковую і культурна-гістарычную каштоўнасць, з'яўляецца адной з крыніц вывучэння этнічнай гісторыі народа.

*Літ.:* Б і р ы л а М. В. Беларуская антрапанімія: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы. Мн., 1966; Я г о ж: Беларуская антрапанімія: Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі. Мн., 1969; Я г о ж: Беларуская антрапанімія. Структура ўласных мужчынскіх імён. Мн., 1982; У с ц і н о в і ч Г. К. Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны (XIV — XVIII стст.) Мн., 1975; С у д н і к М. Р. Слоўнік асабовых уласных імён. Мн., 1965; С а л а м е в і ч Я. Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI — XX стст.). Мн., 1983. *В. П. Лемцюгова.*

## АПІСАЛЬНАЯ ЛІНГВІСТЫКА

Апісальная лінгвістыка — галіна мовазнаўства, прысвечаная стварэнню апісанняў канкрэтных моў на пэўных этапах развіцця. Паколькі мова нам не дадзена ў непасрэдным назіранні, апісальная лінгвістыка павінна вылучаць мову з тэкстаў, створаных на гэтай мове. Для гэтага выкарыстоўваюцца спецыяльныя прыёмы і методыкі. Вывучаючы тэкст, найперш трэба выявіць элементы, якія ў ім паўтараюцца: гукі, марфемы, словы, фразеалагізмы, граматычныя мадэлі сказаў і г. д. Зрабіць гэта можна толькі абапіраючыся на веданне мовы, на практычнае веданне значэнняў моўных адзінак, уменне іх змяняць, спалучаць у буйныя фрагменты тэкстаў. Веды пра законы спалучальнасці моўных адзінак — важная частка апісальнай лінгвістыкі; яны здабываюцца з дапамогай дыстрыбутыўнага аналізу. Дыстрыбуцыя (ад лац. distributio размеркаванне; у мовазнаўстве звычайна — сумесная сустракальнасць) моўных адзінак — адна з іх важных характарыстык. Дыстрыбуцыя гукаў, напрыклад, дазваляе ўдакладніць іх фанемны статус; так [б] і [п] на канцы слова вымаўляюцца аднолькава, і каб вызначыць, якая тут фанема, трэба змясціць іх перад галоснымі: *грыба* ці *грыпа.* Дыстрыбуцыя слоў дазваляе аб'ектыўна выявіць іх семантыку; так, і слова *рэчка,* і слова *возера* сустракаюцца з азначэннем *глыбокі,* але азначэнне *доўгі* часцей ужываецца са словам *рэчка*; няцяжка зразумець, што гэта спалучальнасць адлюстроўвае пэўныя семантычныя асаблівасці слоў *рэчка* і *возера.* Прымяняючы метад непасрэдна складальных, тэкст ці яго фрагмент паслядоўна дзеляць на дзве часткі, якія лёгка вылучаюцца, і так даходзяць да найменшых, непадзельных у гэтай мове адзінак. Так, сказ *Высокі хлопец бяжыць па вуліцы* спачатку членіцца на дзве часткі *(высокі хлопец* і *бяжыць па вуліцы),* кожная з якіх зноў дзеліцца на дзве часткі *(высокі* і *хлопец; бяжыць* і *па вуліцы)*; аперацыя паўтараецца *(высок-і; хлоп-ец; бяж-ыць; па* і *вуліцы)* і працягваецца далей *(выс-ок-і; вуліц-ы, вул-іц;* магчымасць такога члянення можна праверыць падборам адпаведных пар: *высок-і — высокага; хлоп-ец — хлоп-чык; бяж-ыць — бег; выс-ок — высь; вуліц-ы — вуліц-а; вул-іц — вул-ка).* Метад мінімальных пар ужываецца для ўстанаўлення мінімальных гукавых адзінак (фанем): калі мы адрозніваем словы *сын* і *сан, рыла* і *рала,* формы *вуліцы* (мн. л.) і *вуліца,* значыць, розніца гукаў [а] і [ы] мае ў дадзенай (у нашым выпадку — беларускай) мове дыстынктыўную (такую, што адрознівае сэнс) функцыю, а гэта значыць, што гукі [а] і [ы] у прыведзеных прыкладах розныя фанемы. Метад трансфармацыйнага аналізу прымяняюць для выяўлення некаторых непасрэдна неназіральных моўных з'яў, напрыклад, некаторых значэнняў, якія праясняюцца пры перабудове (трансфармацыі) сказа ці спалучэння слоў. Фраза *Ён ідзе лесам* дапускае трансфармацыю *Ён ідзе праз лес,* а фраза *Ён абчэсвае бервяно сякерай* такой трансфармацыі не дапускае (немагчыма: *Ён абчэсвае бервяно праз сякеру*). Значыць, значэнне творнага склону ў гэтых фразах неаднолькавае: у адным выпадку творны склон абазначае месца, а ў другім — інструмент. Колькасныя, статыстычныя метады ў апісальнай лінгвістыцы патрэбны для даследавання паўтаральнасці фрагментаў тэкстаў, адзінак мовы; гэта важна для разумення ролі моўных адзінак у тэксце. Так, напрыклад, рэдкія моўныя адзінкі робяць большае ўражанне на чытача ці слухача, чым частыя, якія прымільгаліся: словы *грандыёзны* ці *велізарны* хутчэй звернуць на сябе ўвагу, чым адзін з найчасцей ужывальных прыметнікаў *вялікі.* Веданне статыстычных паказчыкаў памагае разумець некаторыя тэксты, змест якіх выклікае па тых ці іншых прычынах цяжкасць для разумення; напрыклад, у вядомым апавяданні А. Конан Дойла *«Чалавечкі, якія скачуць»* дзякуючы вылічэнню найбольш частага малюнка чалавечка ў скоках Ш. Холмс здолеў прачытаць запіску і раскрыць даручаную яму справу. Апісальная лінгвістыка звяртаецца да эксперыментальных мето-

дык даследавання. Калі моўная з'ява сустракаецца ў тэкстах рэдка, можна звярнуцца да моўнай інтуіцыі носьбітаў мовы і запрапанаваць ім пабудаваць сказ, дзе б ужывалася патрэбнае слова ці граматычная форма. Магчымы і зварот з пытаннем пра некаторыя факты да экспертаў — людзей з добрым моўным чуццём і густам, у некаторых выпадках даследчык сам выконвае абавязкі эксперта, праводзіць эксперымент на сабе. У фанетыцы шырока выкарыстоўваюць інструментальныя методыкі: вымяраюць акустычныя параметры гукаў, фіксуюць удзел органаў маўлення ва ўтварэнні гукаў і г. д. Эксперыментальныя і інструментальныя метады павінны забяспечваць высокую дакладнасць і аб'ектыўнасць вывучэння жывой мовы. Аднак першаснае значэнне ў апісальнай лінгвістыцы, побач з названымі і некаторымі іншымі спецыяльнымі метадамі і прыёмамі, мае метад назірання. Слухаючы вусныя размовы і чытаючы пісьмовыя тэксты, лінгвісты выбіраюць факты, прыклады, узоры ўжывання тых ці іншых моўных з'яў. Аналізуючы гэтыя факты, узятыя цалкам ці выбарачна, лінгвісты атрымліваюць карціну функцыяніравання з'явы, якая цікавіць даследчыкаў: суфікса, слова, фразеалагізма і г. д. Здабытыя шляхам прымянення розных методык і даследчых прыёмаў матэрыялы павінны быць упарадкаваны: трэба вызначыць іх узаемасувязі, іерархію (падпарадкаванасць), выявіць розныя сродкі перадачы аднаго значэння (сінонімы, варыянты канчаткаў, напрыклад, *-а* і *-у* ў родным склоне і г. д.). Будуюцца калонкі скланення і спражэння ў граматыцы, устанаўліваюцца тыпы вар'іравання гукаў у фанетыцы, раскрываецца сістэма значэнняў мнагазначных слоў і г. д. У апошні час усё шырэй распаўсюджваецца думка пра мэтазгоднасць комплекснага падыходу да моўных з'яў. Так, напрыклад, распрацоўка сучаснага слоўніка магла б уключаць і звычайныя назіранні (картатэку, у якой зафіксаваны розныя ўжыванні слова), і статыстычныя падлікі частотнасці слова, яго форм і іх варыянтаў, і дадзеныя пра яго лексічную і граматычную спалучальнасць, і вынікі асацыятыўных эксперыментаў (гл. **Псіхалінгвістыка**), і граматычныя, а таксама стылістычныя паметы. Карціна мовы ў выніку комплекснага аналізу ўзбагачаецца, становіцца больш поўнай, выпуклай і яскравай. Асобныя моўныя факты складваюцца ў сістэму, адлюстраванне якой і ёсць асноўная задача апісальнай лінгвістыкі.

Найбольш пашыранымі выніковымі працамі апісальнай лінгвістыкі традыцыйна з'яўляюцца граматыкі (што ўключаюць таксама фанетыку і словаўтварэнне) і слоўнікі. Стварэнне граматыкі і слоўніка — галоўная задача апісальнай лінгвістыкі ў кожнай мове. Беларуская апісальная лінгвістыка ўжо дала падрабязныя граматыкі беларускай мовы, тлумачальныя і іншыя слоўнікі. Распрацоўка навуковай тэорыі апісальнай лінгвістыкі працягваецца, глыбей вывучаюцца факты, здабываюцца новыя веды, што стварае магчымасць лепей рэалізаваць патрэбы народа, творцы і носьбіта мовы, у больш дасканалых граматыках і слоўніках.

Побач з тэрмінам «апісальная лінгвістыка» ўжываецца і назва «дэскрыптыўная лінгвістыка» (ад лац. descriptio апісанне). Гэты тэрмін прыйшоў да нас з ЗША, дзе дэскрыптыўнай лінгвістыкай называюць кірунак навуковых даследаванняў, у пачатку якога стаяла вывучэнне моў амерыканскіх індзейцаў. Гэтую навуковую плынь пачалі распрацоўваць амерыканскія мовазнаўцы Ф. Боас і Э. Сэпір, на Беларусі — Б. Тарашкевіч.

*Літ.:* Принципы описания языков мира. М., 1976; Глисон Г. Введение в дескриптивную лингвистику: Пер. с англ. М., 1959; Методы изучения лексики. Мн., 1975.
*А. Я. Супрун.*

## «АПОВЕСЦЬ ПРА БАВУ»

«Аповесць пра Баву» — папулярны ў сярэдневяковай Еўропе твор з серыі рыцарскіх раманаў і аповесцей. Ён узыходзіць да французскай паэмы 12 ст. На беларускую мову быў перакладзены з сербскай рэдакцыі ў канцы 16 ст. Захаваўся ў складзе т. зв. Пазнанскага зборніка (захоўваецца ў Публічнай бібліятэцы імя Э. Рачынскага ў Познані), дзе змешчаны таксама «Аповесць пра Трышчана» (гл. **«Аповесць пра Трышчана»**), «Гісторыя пра Атылу» і летапіс Рачынскага. У арыгінале твор займае старонкі 129—171 і мае загаловак «Исторьѧ ѿ кнѧжати Кгвидоне», бо пачынаецца апавяданнем пра смерць князя Гвідона. Далей жа апісваюцца прыгоды яго сына Бавы, рыцарскія подзвігі юнака, удзел у турнірах, перадоленне шматлікіх перашкод на шляху да сустрэчы са сваёй каханкай Дружненай.

З боку мовы «Аповесць пра Баву» — адзін з лепшых перакладных помнікаў старажытнай беларускай літаратуры. Яго перакладчыкам быў высокаадукаваны чалавек, добра знаёмы з мовай тагачаснага беларускага пісьменства. Тут найбольш поўна адлюстраваны граматыка і лексіка народнай беларускай мовы, хоць традыцыйныя моўныя сродкі захоўваюцца таксама ў значнай колькасці. Твор напісаны тыповым беларускім скорапісам канца 16 ст., у аснову правапісу, як і ў іншых тагачасных помніках, пакладзены гісторыка-этымалагічны прынцып. Таму такія характэрныя рысы беларускай фанетыкі, як аканне і яканне, дзеканне і цеканне, у помніку зусім не зафіксаваны — традыцыйна пішацца *вода, голова, дорога, десеть, дитѧ* і г. д. Затое ў значэнні асноўнай арфаграфічнай нормы выступае зацвярдзенне шыпячых і *р*: *валчыти, говорыти, чынити, шыбеница, щытъ*. Гэта рыса асабліва паслядоўна адлюстроўваецца ў дзеепрыслоўях цяперашняга і прошлага часу: *гледечы, жывучы, мовечы, плачучы, чынечы, давшы, падшы, чувшы* і інш. Вельмі часта перадаецца на пісьме уласцівае беларускай мове змяненне гука *у* ў *у* нескладовае, якое ў помніку абазначаецца літарай *в*: *вбачыти, вдарыти, вчынити, вжо, вхо*. Аднак такое напісанне непаслядоўнае: адны і тыя словы ў помніку пішуцца па-рознаму: *вдаръ* і *ударъ*, *взѧлъ* і *узѧлъ*, *вмеръ* і *умеръ*, *втекъ* і *утекъ*. Нярэдка выкарыстоўваецца літара *э*, якая пішацца пасля папярэдніх цвёрдых зычных: *бээзцный, гэрбъ, ліцэ, рыцэръ, сэрцэ, тэжъ*.

Амаль палавіну тэксту ў творы займае дыялагічная мова, дзе асабліва выразна выяўляюцца рысы жывой беларускай народна-дыялектнай мовы. Яркі народны каларыт надаюць помніку шматлікія клічныя формы назоўнікаў тыпу *брате, господару, друже, мужу, пане, рыцэру, сыну, цару*, формы роднага склону назоўнікаў мужчынскага роду з канчаткам *-у*: *бою, вдару, году, городу, замку, люду, палацу, часу*. Спецыфічнымі для гутарковай мовы з'яўляюцца формы загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку дзеяслова тыпу *будь, едь, мовъ, сѧдь, устань*, 1-й асобы множнага ліку *поведаймо, погледимо, поедьмо, улѣзьмо*. Народнае вымаўленне адлюстравана ў формах цяперашняга часу 3-й асобы абодвух лікаў з мяккім канчаткам *-ть*: *идеть, можеть, несеть, хочеть, мають, могуть, плачуть*. Зрэдку трапляюцца і формы 3-й асобы без канцавога *-ть*: *буде, кажэ, може*. Старажытныя формы прошлага часу аорыст і імперфект у помніку зусім не ўжываюцца. Асноўнай формай для выражэння прошлага часу з'яўляецца перфект: *вбачылъ, вдарылъ, поехалъ, поткалъ, хотелъ, вышли, покинули, служыли*. У дыялагічнай мове шырока выкарыстаны формы перфекта са звязкай, якая ўказвае на асобу: *мовилъ есми, хотѣла есми, нашли есмо, пришли есмо, есте служыли*. У адпаведнасці з народным вымаўленнем ужываюцца формы прошлага часу дзеясловаў з асновай на зычныя: *бѣгъ, звыкъ, легъ, могъ, рекъ, улезъ, утекъ* (у раннім беларускім пісьменстве пад царкоўнаславянскім уплывам, а ў пазнейшым — пад польскім такія формы мелі на канцы *-лъ*: *бѣглъ, леглъ, моглъ, реклъ*). Польскі ўплыў у дзеясловах зводзіцца толькі да ўжывання некаторых форм 1-й асобы адзіночнага ліку з канчаткам *-мъ*: *мамъ, надевамсѧ, повѣмъ, полецамъ, прысегамъ, пытамъ*. У помніку ўжываюцца пераважна традыцыйныя формы

інфінітываў на *-ти*, якія і ў наш час захоўваюцца ў паўднёва-заходніх беларускіх гаворках: *быти, волати, вчынити, дати, ехати, жати, мовити, плакати, ховати* і інш. Побач з гэтым трапляюцца і інфінітывы новага ўтварэння на *-ть*, уласцівыя паўночна-ўсходнім гаворкам: *вѣрыть, жадать, шбѣсить, шставить, убить*.

Аснова слоўнікавага складу помніка — лексічныя сродкі тагачаснай беларускай літаратурна-пісьмовай мовы. На фоне іх яўна другараднае месца займаюць запазычанні, архаізмы і г. д. Уяўленне пра выкарыстанне розных моўных стыхій даюць суадносіны беларускіх поўнагалосных лексем і іншамоўных няпоўнагалосных. У помніку відавочна пераважаюць беларускія формы тыпу *берегъ, береме, волосы, ворота, голова, городъ, дорога, король, сторожъ, боронити, поздоровити*. Значна менш тут аднатыпных слоў польскага афармлення: *злото, кролевна, кроль, сромота, поздровить*. Толькі некалькі слоў гэтага тыпу маюць паўднёва-славянскае паходжанне: *глава, гласъ, градъ*. Але можна сцвярджаць, што гэта не царкоўнаславянізмы, бо іншых царкоўнаславянізмаў у помніку няма, а сербізмы, якія ўжываюцца побач з семантычнымі і словаўтваральнымі сербізмамі накшталт *войникъ* (воін), *дружына* (таварышы), *лугъ* (гай, лес), *морнаръ* (марак), *прыстанищо* (прыстань), *студенецъ* (крыніца). Адчувальны ў помніку таксама пласт лексічных паланізмаў, куды адносяцца, напрыклад, назоўнікі *гэлмъ* (шлем), *панство* (дзяржава), *палацъ, рожа* (ружа), *трутизна* (атрута), *хлопецъ*, прыметнікі *бэзэцный* (подлы), *моцный, пекный* (прыгожы), *цудный*, дзеясловы *валчити* (ваяваць), *волати* (крычаць), *отрутити*. Аднак амаль усе такія польскія словы вядомы былі ўжо беларускаму пісьменству папярэдняга перыяду.

*Публ.:* Весялоўскі А. М. // Зборнік Аддзялення рускай мовы і славеснасці. Спб., 1888. Т. 44, № 3.
*Літ.:* Jasińska-Socha T. System fleksyjny starobiałoruskich zabytków II połowy XVI w. Wrocław etc., 1979.

*А. І. Жураўскі.*

## «АПОВЕСЦЬ ПРА ТРЫШЧАНА»

«Аповесць пра Трышчана» — помнік беларускага пісьменства 16 ст., рыцарскі раман пра Трыстана і Ізольду, перакладзены на беларускую мову з сербскага арыгінала, які ў сваю чаргу ўзыходзіў да італьянскай рэдакцыі. Кельцкая легенда пра каханне юнага рыцара Трыстана і ірландскай прынцэсы Ізольды была адным з самых папулярных сюжэтаў сярэдневяковай заходнееўрапейскай літаратуры. Яна вядома ў вялікай колькасці апрацовак на ўсіх асноўных еўрапейскіх мовах. Беларускі помнік з'яўляецца унікальнай славянскай версіяй гэтага сюжэта (захавалася яшчэ чэшская апрацоўка — вершаваны твор 14 ст. «Трыстан і Ізольда», які ўяўляе сабой кантамінацыю перакладаў з Готфрыда Страсбургскага і іншых нямецкіх паэтаў).

«Аповесць пра Трышчана» дайшла да нас у адзіным спісе ў складзе рукапіснага Пазнанскага зборніка (каля 1580 г., захоўваецца ў Публічнай бібліятэцы імя Э. Рачынскага ў Познані), куды ўваходзяць таксама «Аповесць пра Баву» (гл. **«Аповесць пра Баву»**), «Гісторыя пра Атылу», летапіс Рачынскага. Яна змешчана на першых 64 аркушах пад загалоўкам (агульным з «Аповесцю пра Баву»): «Починаетьсѧ повесть ѡ витезѧх с книгъ сэрбъскихъ, а звлаща ѡ славномъ рыцэры Трысчане, ѡ Анцалоте и ѡ Бове и о иншыхъ многихъ витезех добрыхъ».

Першаадкрывальнік зборніка В. М. Бадзянскі, які ў 1842 г. знайшоў яго ў бібліятэцы Рачынскіх, вызначыў, што мова рыцарскіх аповесцей — гэта «пісьмовая мова Вялікага княства Літоўскага ў лепшы, квітнеючы час яго», у аснове сваёй «мова тых Русаў, якія жывуць паміж Прыпяццю, вытокамі Нёмана і Дняпром».

Змест аповесці складае гісторыя поўнага небяспекі і пакут жыцця вандроўнага рыцара Трышчана, пачынаючы ад яго трагічнага з'яўлення на свет (адгэтуль імя героя:«... ты сѧ в жалости родилъ и нехаи тобе будет имя Жалост»). Яму няма роўні ў рыцарскім майстэрстве, доблесці і высакароднасці, ён заўсёды выходзіць пераможцам у незлічоных паядынках, дапамагаючы пакрыўджаным, знішчаючы «злыя законы» і бесчалавечныя звычаі, вызваляючы людзей ад несправядлівай даніны. Але няма і «того рыцэра, которыи бы поднѧлъ толко муки для милости, колко Трыщанъ». Чалавек «высокого сэрца і рыцэрства», верны рыцарскаму абавязку і слову, ён вымушаны аддаць каханую, «красную Ижоту», у жонкі каралю карнуэльскаму Марку, свайму названаму бацьку і сеньёру. Як і ў іншых празаічных апрацоўках легенды, асноўная ўвага ў «Аповесці пра Трышчана» сканцэнтравана на апісанні рыцарскіх подзвігаў героя, у той час як гісторыя трагічнага кахання адступае крыху на другі план



**«Аповесць пра Трышчана» (фрагмент). 16 ст.**

(так званая «рыцарская» версія рамана — у адрозненне ад «эпічнай» і «лірычнай»). У той жа час беларуская аповесць вылучаецца некаторымі самабытнымі асаблівасцямі развіцця сюжэта (Трышчан не жэніцца з «другой» Іжотай, дзеянне не даведзена да заўчаснай гібелі закаханых).

Мова і тэксталогія «Аповесці пра Трышчана» даследаваны ў працах А. Брукнера (1886) і А. М. Весялоўскага (1888). А. Брукнер звярнуў увагу на лексічныя сербізмы *(белегъ* 'знак', *неѩкъ* 'слабы', *част(ь)* 'чэсць', *ѡтокъ* 'востраў' і інш.) і на некаторыя італьянскія словы ў тэксце аповесці *(прынчып* 'правіцель', *морнар* 'марак' і інш.) і прыйшоў да вываду, што беларускі твор перакладзены з сербскага спіса, першакрыніцай якога быў італьянскі. А. М. Весялоўскі, які ажыццявіў першую публікацыю «Аповесці пра Трышчана», больш дакладна вызначыў радзіму сербскай рэдакцыі — вобласць Босніі і Паўднёвай Далмацыі. Вывучэннем помніка займаліся таксама Я. Ф. Карскі, а ў наш час В. Ф. Крыўчык, А. І. Жураўскі і іншыя гісторыкі беларускай мовы, польская лінгвістка Т. Ясінска-Соха, італьянская даследчыца Э. Згамбаці. Аповесць перавыдадзена ў серыі

«Літаратурныя помнікі» (М., 1976) разам з іншымі заходнееўрапейскімі версіямі легенды. Яна перакладзена на сербскахарвацкую (Белград, 1966), англійскую (Лідс, 1977; Нью-Йорк, 1988), італьянскую (Фларэнцыя, 1983) мовы.

Для гісторыі беларускай мовы «Аповесць пра Трышчана» мае выключную цікавасць. У гэтым помніку, сам жанр якога абумоўліваў незалежнасць ад архаізуючых крыніц, свабоду і разнастайнасць стылістыкі, на фоне царкоўнаславянскай пісьмовай традыцыі выразна выступаюць рысы жывой беларускай мовы канца 16 ст. У выніку шматлікіх адступленняў ад традыцыйных арфаграфічных норм ярка адлюстраваны некаторыя фанетычныя асаблівасці: зацвярдзенне шыпячых і *р* (*жыв, дружына, вжэ, слухавшы мъшы, нашолъ, чынити, бачечы, щытъ, стрельбищэ, прыложыла, крыкъ, потералъ* і да т. п.), пераход пачатковага *у* ў *ў* нескладовае (*ввидели, вжо, вмомъ, вчы, втратити* і інш.), устаўное *в* (*ув-окно, ув-огонь, ув-острове*). Да найбольш характэрных асаблівасцей марфалогіі адносяцца: рэгулярны канчатак *-у / -ю* (а не *-ови*) у давальным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду (*к Чорному острову, ик королю Марку, къ прыятелю*); двухскладовы канчатак *-ое* ў родным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў жаночага роду (*доброе славы, великое доброти, силное руки, красное Ижоты*); канчатак *-ые / -ие* ў якасці нормы для назоўнага склону множнага ліку прыметнікаў усіх родаў (*добрые витези, ежджалые рыцэры, дива великие, цудные речы*); шырокае ўжыванне дзеясloўных форм 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу з нулявым канчаткам (без канцавога *-т*, тыпу *еде, каже, хочэ*); канчатак *-мо* ў 1-й асобе множнага ліку цяперашняга часу і загаднага ладу (*хочемо, можемо, мыслимо, поедьмо, оставмо, поведаимо*), формы загаднага ладу без канцавога *-и* ад дзеясловаў *бити, пити, лити* (*выпи тот кубок, проли wстанок, би сѧ*); дзеепрыслоўі цяперашняга часу на *-учы, -ючы, -ечы, -ячы* (*кленучы, умираючы, гаворечы, боючи сѧ*), прошлага часу на *-вшы, -мшы, -шы* (*зачаровавшы, вземшы, рекшы*) і інш. Для помніка (які ўзнік пасля Люблінскай уніі 1569 г.) характэрна мноства паланізмаў у слоўніку (*трутизна, милость* — 'любоў', *опатрѣность, мешкати* — 'жыць', *волати, кревный, окрутныи, звлаща, прудко* і інш.), а таксама ў сістэме словазмянення і сінтаксісе (параўн. формы *панове, хлопи, знамъ, повѣмъ*, займеннік *се*, выраз *ачъколвек ма быти*). Сустракаюцца дыялектызмы (напрыклад, дзеяслоўныя формы тыпу *мыслимо*), якія сведчаць пра тое, што перакладчык аповесці, магчыма, паходзіў з паўднёва-заходняй Беларусі.

Шырокае пранікненне ў аповесць стыхіі жывой мовы Я. Ф. Карскі тлумачыў тым, што гэта не літаральны пераклад, а хутчэй пераказ сербскага арыгінала, перакладчык жа быў, відаць, свецкім чалавекам, мала знаёмым з царкоўнаславянскімі кнігамі. Сапраўды, царкоўнаславянізмы ў «Аповесці пра Трышчана» даволі рэдкія. Але ці не быў гэта свядомы творчы прынцып перакладчыка, які, бясспрэчна, быў высокаадукаваным чалавекам, дасканала валодаў сербскай і польскай мовамі, ведаў сваю пісьмовую традыцыю і быў чулы да патрабаванняў жанру? Яго версія рыцарскага рамана апрацавана з такой мерай аўтарскай свабоды, майстэрства і экспрэсіі, што пры чытанні яе цяпер узнікае ўражанне непасрэднай гутаркі апавядальніка з беларускім чытачом. У творы адлюстраваны каларыт рыцарскай культуры эпохі феадалізму з яе гістарычнымі рэаліямі (касцюм, зброя), рытуаламі, асаблівасцямі этыкету, псіхалогіі і г. д. Дзякуючы багаццю лексікі (у прыватнасці, сінаніміі), фразеалогіі, разнастайнасці сінтаксісу, шматлікім тропам аўтар перакладу знаходзіць непаўторныя фарбы для кожнага з бясконцай чарады рыцарскіх турніраў і паядынкаў, для перадачы лірычных эпізодаў, апісання перажыванняў і пачуццяў герояў. У мастацкіх адносінах беларуская «Аповесць пра Трышчана» не саступае роднасным ёй празаічным апрацоўкам «вечнай» легенды — французскай і італьянскай.

«Аповесць пра Трышчана» сведчыць пра духоўныя патрабаванні беларускага чытача 16 ст., яго цікавасць да свецкай тэматыкі і да заходнееўрапейскай літаратуры, пра беларуска-балканскія літаратурныя і культурныя сувязі ў перыяд званага другога паўднёваславянскага ўплыву.

Паколькі сербскі арыгінал аповесці не захаваўся, то для ліквідацыі гэтай лакуны ў гісторыі сербскай літаратуры ў пасляваенны час быў зроблены пераклад аповесці на сербскую мову з беларускага тэксту.

*Публ.*: Легенда о Тристане и Изольде. М., 1976; Sgambati E. H. Tristano Biancorusso. Firence, 1983.

*Літ.*: Веселовский А. Н. Из истории романа и повести: Материалы и исследования. Вып. 2. Славяно-романский отдел. Спб. 1888; Мова беларускай пісьменнасці XIV — XVIII стст. Мн., 1988.

*Т. М. Суднік.*

## АПОСТРАФ

Апостраф (франц. apostrophe, ад грэч. apóstrophos павернуты ўбок або назад) — надрадковы значок у выглядзе коскі. У розных арфаграфічных сістэмах мае рознае значэнне: указвае на пропуск галосных пры скарачэнні слоў (англ. *don't* замест do not, франц. *l'an* замест le an, ням, *'swar* замест es war), аддзяляе артыклі і часціцы з выпаўшымі галоснымі ва ўласных імёнах (французскае *d'Arc*, ірландскае *O'Casey*, англійскае *O'Hard*) і інш. У старабеларускім пісьменстве, як і ў старарускім і староўкраінскім, на месцы, дзе зараз апостраф, ужываліся паерык (ад назвы кірыліцкай літары *ъ* 'ер') і літары *ъ, ь* (*зъездъ, объявити, вьюкъ*). Аднак далейшае развіццё пісьма патрабавала ўвядзення новага графічнага сродку для ўпарадкавання напісання асобных груп слоў. У рускай мове, напрыклад, апостраф пачаў ужывацца з канца 18 ст. пры перадачы ўласных імён заходнееўрапейскага паходжання. У беларускай графіцы стаў выкарыстоўвацца як раздзяляльны сродак пасля апублікавання ў 1918 г. «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча, аднак канчатковa яго функцыі вызначыла Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу 1926 г. Выконвае раздзяляльную функцыю перад галоснымі *е, ё, ю, я, і* пасля цвёрдых зычных, за выключэннем *з*, пасля прыставак, якія канчаюцца на зычны (*аб'езд, пад'ём, раз'юшаны, з'яднаць, аб'інець*), і ў сярэдзіне слоў пасля губных *б, в, м, п, ф* (*вераб'іны, інтэрв'ю, сям'я, куп'ё, саф'ян*), заднеязычных *г, к, х* (*Дантэ Аліг'еры, Лук'ян, Х'юлет*), шыпячых *ж, ч, ш* (*між'ярусны, Ч'ерна, Буш'е*), зубных *д, т* і альвеалярнага *р* (*д'ябал, Т'ер, сузор'е*). Як і ў рускім правапісе, служыць для аддзялення часціц пры замежных прозвішчах і імёнах (*Д'Артаньян, О'Генры, О'Конар*). У фанетычнай транскрыпцыі абазначае змякчэнне зычных (*вясна* — «в'асна», *лес* — «л'эс»).

*А. М. Булыка.*

## АРАШОНКАВА ГАННА УЛАДЗІМІРАЎНА

Беларускі мовазнавец Г. У. Арашонкава нарадзілася 21 лістапада 1928 г. ў былым маёнтку Альба (цяпер пасёлак завода антыбіётыкаў) Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. У 1953 г. скончыла БДУ. З 1956 г. працуе ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі (у 1963—67 гг. у Мінскім педінстытуце, з 1965 г. дацэнт). Кандыдат філалагічных навук (1959). Сааўтар прац «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69), «Беларуская граматыка» (ч. 1, 1985). Адзін з укладальнікаў «Хрэстаматыі па беларускай дыялекталогіі» (1962). Дзяржаўная прэмія СССР 1971 г. за ўдзел у комплексе прац у галіне беларускай лінгвагеаграфіі.

У шэрагу артыкулаў і кандыдацкай дысертацыі даследавала асноўныя тэндэнцыі развіцця асабовых форм




**Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» (вокладка). 1987.**

дзеясловаў беларускай мовы на матэрыялах пісьменства 16 ст. Многія працы Г. У. Арашонкавай прысвечаны вывучэнню і класіфікацыі народных гаворак пераважна ў паўднёвых і паўднёва-заходніх беларускіх дыялектах (заходняе пагранічча Беларусі, брэсцка-пінскія, гомельскія гаворкі). Даследавала лексіку балтыйскага паходжання, паланізмы ў беларускай дыялектнай і літаратурнай мове, узаемадзеянне беларускай літаратурнай мовы з народнымі гаворкамі, пытанні тапанімікі, культуры мовы, тэрміналогіі, асаблівасці мовы Я. Коласа і інш. Як лексікограф з'яўляецца адным са складальнікаў «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (т. 3, 1982), «Слоўніка беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне»(1987). Разам з В. П. Лемцюговай стварыла першы ў гісторыі беларускай лексікаграфіі «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» (1987). У ім сабрана і пракаменціравана каля 8 тысяч слоў з найбольш тыповымі цяжкасцямі арфаграфічнага, арфаэпічнага, граматычнага і стылістычнага характару, што сустракаюцца ў сучаснай беларускай літаратурнай мове, а таксама цяжкасцямі, звязанымі з размежаваннем значэнняў слоў. Слоўнік памагае чытачу лепш засвойваць нормы вуснай і пісьмовай мовы, ацэньваць моўныя факты з пункту погляду іх нарматыўнасці, правільнасці ці няправільнасці выкарыстання ў маўленчай практыцы і на пісьме, памагае павышаць агульную культуру мовы.

Г. У. Арашонкава — сааўтар (з В. П. Лемцюговай) слоўніка-даведніка «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах» (1991). У яго ўключана каля 1500 слоў (дзеясловы, назоўнікі і прыметнікі), якія патрабуюць ад залежнага слова розных склонавых форм у беларускай і рускай мовах, пры якіх можа парушацца нарматыўная спалучальнасць з залежным словам па аналогіі з падобнымі канструкцыямі або пад уплывам дыялектаў ці канструкцый з іншых моў, сінтаксічная спалучальнасць якіх залежыць ад значэння галоўнага слова і інш. Беларускія загаловачныя словы і іх рускія адпаведнікі маюць займенныя пытанні і ілюстрацыі — выказванні, сказы або цытаты з твораў мастацкай літаратуры.

*Тв.*: Асноўныя тэндэнцыі ў развіцці асабовых форм дзеясловаў у беларускай мове: (Па матэрыялах пісьменнасці XVI ст.) // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. 1958. Вып. 5. Дыялектныя назвы маланкі // Тамсама. 1960. Вып. 7; / Взаимодействие между белорусским национальным литературным языком и народными говорами (разам з Ю. Ф. Мацкевіч, А. Р. Мурашка) // Вопросы образования восточнославянских национальных языков. М., 1962; Аб так званых паланізмах у беларускай мове: (Суфіксы -дл- і -іск-) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1963. № 2; До питання про класіфікацію білоруських говорів (разам з А. Р. Мурашка) // Праці XI Республіканьської діалектологічної наради. Київ, 1965; Семантычныя працэсы ў беларускіх запазычаннях з польскай мовы//Бел. лінгвістыка. Мн., 1972. Вып. 2; Да пытання аб некаторых склонавых формах назоўнікаў//Сучасная беларуская мова: (Пытанні культуры мовы). Мн., 1973; Словаўтварэнне адтапанімічных прыметнікаў (разам з В. П. Лемцюговай)//Беларуская анамастыка. Мн., 1977; Польскія элементы ў беларускай мікратапаніміі // Беларуская анамастыка. Мн., 1981. Вып. 2; Словазмяненне назоўніка і дзеяслова // Беларуская мова. Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі. Мн., 1987.

*І. У. Саламевіч*

## АРСЕННЕВА НАТАЛЛЯ АЛЯКСЕЕЎНА



Беларуская паэтэса, перакладчыца, драматург Н. А. Арсеннева нарадзілася 20 верасня 1903 г. ў Баку. Дзіцячыя і юнацкія гады правяла ў Вільні. Скончыла Першую Віленскую беларускую гімназію (1921). Настаўнічала, вучылася ў Віленскім універсітэце. У 1939 г.— супрацоўніца газеты «Вілейская праўда». Як жонка інтэрніраванага польскага афіцэра адбывала ссылку ў Казахстане (1940—41). У час нямецка-фашысцкай акупацыі Беларусі працавала ў «Беларускай газэце». У 1944 г. выехала ў Германію. З 1949 г. жыве ў ЗША.

Творчасць Арсенневай 20—30-х гадоў стала значнай з'явай заходнебеларускай літаратуры. Кніга лірыкі «Пад сінім небам» (Вільня, 1927) узбагаціла беларускую паэзію глыбокім пранікненнем у сферу чалавечых пачуццяў, свежасцю лірычных інтанацый, багаццем вобразнай палітры. «Трэба прызнаць, што са сваіх інтымных пачуццяў яна ўмее вязаць прыгожыя карункі»,— пісаў пра паэтэсу Максім Танк у сваіх «Лістках календара» (Т а н к М. Лісткі календара. Мн., 1970. С. 123). Гэтыя асаблівасці лірыкі Арсенневай уласцівыя і кнізе «Жоўтая восень», што рыхтавалася да друку яшчэ ў 1935—36 гадах, але апублікаваная цалкам толькі ў кнізе выбранага як асобны раздзел.

Значны грамадскі рэзананс атрымала кніга вершаў Арсенневай «Сягоння» (Менск, 1944), а таксама яе лірыка перыяду эміграцыі, упершыню сабраная ў вялікім томе выбранага «Між берагамі» (Нью-Йорк; Таронта, 1979).

Паэзія Наталлі Арсенневай застаецца адной з самых загадкавых у беларускай літаратуры 20 стагоддзя. Руская паводле паходжання і ўмоў выхавання ў гарадскім інтэлігенцкім асяроддзі, паэтэса вельмі тонка адчула інтанацыйна-вобразны лад беларускай мовы і здолела стварыць на ёй сапраўдныя ўзоры лірыкі. Арганічнасць, натуральнасць беларускамоўнай стыхіі паэзіі Арсенневай уражваюць і захапляюць.

Вызначальную ролю ў фарміраванні Н. Арсенневай як беларускай паэтэсы адыграла беларуская гімназія ў Вільні. «Неставала блізу ўсяго,— пісала Арсеннева ва ўспамінах,— шмат хто з вучняў і з настаўнікаў галадаваў, ня было нястачы толькі ў вадным — у запале, у гарачых ахвярных сэрцах, у людзях, якія, дарма што голад і холад, аддана вялі сваю працу з аднэю думкай — зрабіць шчасьлівай сваю Бацькаўшчыну — Беларусь» (А р с е н ь н е в а Н. Між берагамі. Нью-Ёрк; Таронта, 1979. С. 13). Сярод выкладчыкаў гімназіі былі дзеячы нацыянальнага адраджэння Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Бранiслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч. Пад іх уплывам гімназістка Арсеннева, народжаная ў

сям'і расійскага службоўца, адчула сваю прыналежнасць да Беларусі і так авалодала беларускай мовай, што пачала пісаць на ёй вершы.

Спасціжэнне беларускага слова адбывалася ў Арсенневай на першым часе пераважна праз кніжныя крыніцы, праз творчасць класікаў беларускай літаратуры. З успамінаў паэтэсы вядома, як уразіў яе ў дзяцінстве купалаўскі верш «Я мужык-беларус», а ў ім чамусьці слова *цёмны*, выдрукаванае як *цйомны* — так было ў 1-м выданні зборніка «Жалейка». Надзвычай паўплывала на будучую паэтэсу мастацкае слова Максіма Гарэцкага, першы прачытаны твор пісьменніка «Патаёмнае».

З дзяцінства з цікавасцю ўслухоўвалася Арсеннева і ў народную гутарковую мову беларусаў. Паэтэса неаднойчы прыгадвала як найвялікшую падзею свайго жыцця зіму 1918—19 гадоў у вёсачцы Жоўніна каля Дрысы: «Там я першы раз спаткалася з жывой беларускай мовай. Так яна мне ўпадабалася!» (Роднае слова. 1993. № 9. С. 68). Пазней, калі Арсеннева даволі працяглы час жыла ў бацькоў мужа на Валожыншчыне, яна глыбей спазнала вобразнасць і прыгажосць беларускага слова, багацце яго інтанацый. «У хату прыходзілі суседзі, сядзелі і гутарылі. А я — каля іх. І бывала, слухаю, слухаю, слухаю...» (тамсама). Такое жывое, непасрэднае ўспрыманне народнай гаворкі засцерагала паэтэсу ад празмернай кніжнасці, літаратурнай рафінаванасці яе паэтычнай мовы, спрыяла натуральнасці гучання ў яе творах беларускага слова.

Пачатак паэтычнай творчасці Н. Арсенневай прыпадае на той час, калі беларуская літаратурная мова дасягнула пэўнага ўзроўню граматычнай унармаванасці і стылёвай распрацаванасці. Мова твораў Арсенневай, як правіла, адпавядае агульнанароднаму лексічнаму фонду літаратурнай мовы пачатку 20 стагоддзя і тым граматычным нормам, што выкрышталізаваліся ў працэсе літаратурнай практыкі і адлюстраваныя ў «Беларускай граматыцы» Б. Тарашкевіча. Паэтэса, да прыкладу, паслядоўна выкарыстоўвае марфалагічную форму назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду множнага ліку ў месным склоне з канчаткамі *-ох/-ёх: у лугох, у барох, на палёх, у грудзёх, у туманох, па шляхох, па платох*. Сустракаюцца цікавыя прыклады марфалагічнай варыянтнасці, абумоўленай уплывам гутарковай мовы: *іх рукгалінаў шум* ***рудавы*** («Гэта ж восень»); *да мурой прыпаўшы цяжкімі* ***грудзіма*** («Зорка»). Аднолькава ўжывальныя варыянты: *ліст* і *лісьць; гойстры* і *войстры* (фанетычныя); у варыянтным радзе: *сёньня, сягоньня* і *сяньня* пераважае апошні назоўнік.

Безумоўна, у першай сваёй кнізе паэтэсе цяжка было пазбегнуць русізмаў: *палей, небясоў, зауныўны, сястронак, срэдні*. Да асобных слоў рэдактары кнігі «Пад сінім небам» у зносках давалі беларускія адпаведнікі: *лучоў* — праменьняў, кос; *ствол* — камель; *ізумрудныя* — зялёныя, шмарагдовыя (смарагдавыя). За выключэннем гэтых прыкладаў з ранняй творчасці паэтэсы мова Арсенневай даволі чыстая ад іншародных уплываў. Адчуваннем мелодыкі беларускага слова і магчымасцей словаўтварэння народжаны цікавыя з'явы аўтарскай моватворчасці: *сваім хараством* ***нявыслоўным;*** *урачыста і* ***стасьвечна.***

Характар моўна-выяўленчых сродкаў паэзіі Арсенневай абумоўлены рамантычнай экспрэсіяй пачуцця, падкрэсленай метафарычнасцю выказвання, стварэннем новых, нечаканых сэнсавых кантэкстаў: *Край, дзе так дзіка рыпяць // сяньня праклёны чужых* («Там...»); *Ашчэрылі дні чорнымі // зубамі пажарышч* («Жылі мы й будзем жыць»); *Чырвонымі сьлязьмі скрывавілі рабіны // дарогі ў далячынь* («Такі наш кон»).

Сярод мастацкіх тропаў дамінуюць метафара і эпітэт, вельмі часта ў іх сінтэзе як метафарычны эпітэт: ***Сонна ў далёкай*** *кавярні музыка плача* («Вечар»); ***Міргаюць сьвечкі*** *жоўтым* ***зьзяньнем на хваравіта-ўпартым*** *ветры* («У задушкі»); *Мы слухаем* ***воўчае песьні сырэнаў*** *і гоману крам, // дзе скрозь запаляецца й чэзьне //* ***зьдзічэлая чырвань*** *рэклям* («Места»).

Істотнай прыкметай паэтыкі Арсенневай з'яўляецца багацце эпітэтаў у мастацкай сістэме твора. Метафарычна яркія і рупліва адшліфаваныя, яны нанізваюцца ў адзін зіхоткі ланцужок, як пацеркі караляў: *Там* ***паволі, маркотна, ласкава*** *// спавівае ноч нівы й палі* («Паралель»); *Месяц* ***сьцюдзёны і чысты*** *// выплыў у небе* ***ліўльлёвым*** («Ціша); *І над крыжамі красавалі // каліны* ***пышна, пахка, бела*** («У задушкі»); *Шарэлі* ***карэлыя, ўбогія*** *клункі // пад першым сутоньнем у новай айчыне* («...Зварачаецца вецер на кругі свае...»). Гэтыя нанізкі мастацкіх азначэнняў часта ўтвараюць багатую кантэкстуальную сінанімію.

Эмацыянальна-сэнсавую змястоўнасць набываюць у пэўным паэтычным кантэксце эпітэты колераабазначэння: *І здаецца паветра густым і* ***зялёным,*** *// як вада у вазёрах,* ***зялёных*** *ад ціны* («Вечар неба хварбуе ў гарачыя тоны...»); ***Зьбялеўшыя*** *зоры // тонуць у* ***рожавым*** *полымі-моры* («Шчасце»); *Лёгка-займглёныя восені далі // ў* ***ясна-зялёным*** *блакіце сталі* («Туга»); *Закруцілася слупам* ***рыжавым*** *// іржавае лісьце ігрушаў* («Асенняя элегія»); *Густы сасоньнік крые бляхай // з* ***рудаважоўтай,*** *чыстай медзі* («Асенні вечар»).

У паэтычным вопыце Арсенневай прыкметнае месца займаюць сродкі народна-песеннай стылістыкі. Асабліва часта паэтэса карыстаецца характэрнай для паэтыкі народнай песні формай эпітэта — азначэннем-прыдаткам: ***жаўтацьвет****-сенажаць,* ***пясьняр*** *— салавей, сны-****маячэньні,*** *гусьлі-****самагуды,*** *птушкі-****весялушкі,*** ***заліўца****-дзяўчына, краска-****самасейка*** і г. д. Такое ж паходжанне маюць зрашчэнні назоўнікаў *(неба-высь, краскі-лілеі, мора-акіян, віхар-бура)*, што сустракаюцца, як і азначэнні, у форме прыдатка амаль выключна ў першай кнізе паэтэсы «Пад сінім небам», дзе традыцыі фальклору выяўлены найбольш.

У рэчышчы фальклорнай паэтыкі склаліся і такія ўстойлівыя формулы, як парныя дзеяслоўныя зрашчэнні: *любіць-мілаваці, плача-сьмяецца, дрыжала-ўздыхала, шэпча-варожыць*. Паэтэса паслядоўна карыстаецца гэтымі формамі ў цыкле з фальклорна-міфалагічнымі матывамі «Зачараваны кут».

У адпаведнасці з народна-песеннай паэтыкай распрацаваны Арсенневай і паэтычны сінтаксіс. Для мовы фальклорна-міфалагічнага цыкла характэрныя такія традыцыйна-песенныя спосабы і сродкі, як вобразны і сінтаксічны паралелізм, аднатыпнасць сінтаксічнай будовы радкоў, шматлікія паўторы, у тым ліку анафары і інш.: *Не баяркі нявесту ўбіралі, // Яе русу касу расплыталі,—// Расплыталі касу срэбны рыбкі, // Расплыталі умела і шыбка* («Вяселле»); *Вусны сінія сонна сьціскала, // Рукі белыя слаба ламала* («Вяселле»); *Гулка грымелі ў бары тапары, // Гулка грымелі з зары да зары* («Плач старога лесуна»).

Розныя віды паўтораў адыгрываюць значную ролю ў паэтычным сінтаксісе, у выяўленні эмацыянальна-сэнсавай змястоўнасці твораў Арсенневай: *Па залатых жытох сярэбраныя хвалі //* ***Плывуць, плывуць, плывуць*** («Улетку»); ***Гукі дрыжаць, гукі*** *плачуць, губляюцца, // Хваляй на магілках зноў разьліваюцца. // З імі і сэрца* ***дрыжыць: «Досі ўжо, досі ўжо*** *жыць!»* («На матыў хаўтурнага марша»); *Хачу, каб лёс мяне на шумных кірмашох //* ***вадзіў,*** *//* ***вадзіў,*** *//* ***вадзіў,*** *як лерніка сьляпога* («Вечар у Вільні»).

Вельмі рэдкі, амаль унікальны для лірыкі 20 стагоддзя (у адрозненне ад народнай песні) прыклад выкарыстання такой стылістычнай фігуры, як стык, або падхват, калі апошнія словы папярэдняга радка паўтараюцца ў пачатку наступнага, дае паэтэса ў элегіі «Развітанне»: *Разьвітаньне з сьвятлом,* ***разьвітаньне навекі,*** *//* ***Разьвітаньне навекі*** *з жыцьцёвай маной, // Калі чорная ноч* ***моцна сьціснье павекі,*** *//* ***Моцна сьціснье павекі*** *над сьпячай зямлёй.*

Наталля Арсеннева сцвердзіла сябе як мастак, як паэт дзякуючы беларускаму слову. Яе шлях да арганічнай

і свядомай беларускасці пазначаны натхнёнай і нястомнай працай над словам, спасціжэннем багаццяў жывой народнай гаворкі і літаратурнай мовы. Высокая культура пачуцця і эстэтыкі слова вылучаюць Арсенневу як аднаго з найлепшых беларускіх лірыкаў.

*Л. К. Тарасюк.*

## АРТЫКУЛЯЦЫЙНАЯ І ПЕРЦЭПТЫЎНАЯ БАЗА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Якіх-небудзь асаблівасцей у будове або функцыяніраванні органаў мовы ў людзей, якія належаць да розных нацыянальнасцей або рас, няма. І кожнае дзіця ў стане засвоіць любую мову без акцэнту. Але, засвоіўшы родную мову, пасля дасягнення пэўнага ўзросту (13—15 гадоў) большасць людзей траціць здольнасць навучыцца гаварыць на іншай мове без акцэнту. Звязана гэта з наяўнасцю ў носьбітаў кожнай мовы звычных рухаў маўленчых органаў пры ўтварэнні гукаў (артыкуляцыйная база; ад лац. articulare выразна, членараздзельна вымаўляць) і са схільнасцю органаў слыху чалавека пазнаваць і адрозніваць толькі тыя гукі мовы, якія ёсць у роднай мове (перцэптыўная база; ад лац. perceptio успрыманне). Моўныя звычкі вельмі ўстойлівыя, чалавек захоўвае ў вуснай мове адны і тыя ж навыкі вымаўлення на працягу ўсяго жыцця. Пры пераходзе на іншую мову гэтыя навыкі даюць пра сябе знаць у выглядзе акцэнту. Так, дыялектны акцэнт назіраецца ў некаторых носьбітаў літаратурнай беларускай мовы, носьбітамі рускай мовы заўважаецца беларускі акцэнт у рускай мове беларусаў. Яго існаванне звязана з такімі важнымі рысамі артыкуляцыйнай базы беларускай мовы, як агульная ненапружанасць, расслабленасць моўных органаў пры гукаўтварэнні, схільнасць да моцнага памякчэння мяккіх гукаў, своеасаблівасць цвёрдых зычных гукаў і г. д. З агульнай ненапружанасцю губ звязана замена губна-зубнога [в] у становішчах, якія спрыяюць гэтаму, губна-губным [ў] і сама наяўнасць гэтага гука, пэўная нязручнасць, якую многія адчуваюць пры вымаўленні [ф], адсутнасць розніцы ў артыкуляцыі губ пры ўтварэнні цвёрдых і мяккіх [б], [п], [м], іх зацвярдзенне ў канцы слоў і перад зычнымі. Артыкуляцыя змычных [д], [т], а таксама змычна-шчылінных [ц], [дз] характарызуецца вялікай плошчай змычкі, бо змыкаецца не толькі кончык языка з пярэднімі верхнімі зубамі, але і яго спінка з паднябеннем. Ненапружанасць кончыка языка пры памякчэнні гэтых гукаў прыводзіць не толькі да зруху месца артыкуляцыі з зубоў, але і да ператварэння мяккіх [д], [т] у змычна-шчылінныя [дз'], [ц'].

Пры ўтварэнні большасці мяккіх гукаў кончык языка апускаецца аж да ніжніх зубоў, а месца змычкі языка пераносіцца на паднябенне, што і ствара ўражанне іх асаблівай мяккасці, а гукам [з'], [с'], [ц'], [дз'] надае больш або менш выразнае шапелявата адценне. Калі ў рускай мове змякчэнне зычных [з'], [с'], [т'], [д'] па асіміляцыі няпоўнае (нават пашырана іх цвёрдае вымаўленне), то ў беларускай мове ў гэтым выпадку мяккасць адпаведных гукаў такая ж, як і перад галоснымі. Вымаўленне цвёрдых гукаў суправаджаецца заўсёды пад'ёмам задняй часткі спінкі языка да цвёрдага паднябення (велярызацыяй), што надае ім асаблівую цвёрдасць. У беларускай мове гэты рух языка характэрны не толькі для [ж], [ш], як у рускай мове, але і для ўсіх цвёрдых гукаў. Асаблівасці артыкуляцыйнай базы замацоўваюцца пры засваенні вуснай мовы дзякуючы фарміраванню адпаведнай перцэптыўнай базы. Перш чым самому загаварыць, дзіця чуе, як гавораць дарослыя. Засваенне мовы суправаджаецца пастаяннымі папраўкамі, якія ўспрымаюцца слыхам. Імітуючы вымаўленне дарослых, дзіця выпрацоўвае пэўныя артыкуляцыйныя і слыхавыя стэрэатыпы. Любую іншую мову чалавек пачынае ўспрымаць, як бы прасейваючы пачутае праз сіта сваёй роднай мовы. Пры пераходзе з дыялектнага вымаўлення на літаратурнае, з беларускай мовы на рускую або наадварот патрэбны немалыя намаганні, каб пераадолець засвоеныя ў дзяцінстве звычкі. Усе гукі, якія хоць бы ў малой ступені нагадваюць гукі роднай, засвоенай ў дзяцінстве мовы, успрымаюцца, пазнаюцца, як гэтыя гукі. А калі мовы мала падобныя, то чалавек распазнае толькі невялікую частку гукаў, а сама мова становіцца неразборлівай. Відаць, па гэтай прычыне нашы продкі ахрысцілі германцаў немцамі (гэта значыць нямымі, якія невыразна гавораць), а грэкі называлі іншыя суседнія народы варварамі (грэч. barbaros першапачаткова — нямы).

Цесная сувязь перцэптыўнай базы з артыкуляцыйнай перашкаджае змяненню артыкуляцыйных навыкаў, бо перш чым вымаўляць што-небудзь новае, яго трэба запомніць на слых. У беларускай мове гук [р] бывае толькі цвёрдым, у рускай мове ёсць цвёрды і мяккі [р']. Розніца паміж імі лёгка ўлоўліваецца на слых. Тыя з беларусаў, хто гаворыць па-руску, як быццам бы і правільна вымаўляюць словы *ряд, рисовать,* але часта аказваецца, што носьбіты рускай мовы лёгка заўважаюць няпоўнае змякчэнне [р'], хоць самі гаворачыя ўпэўнены, што яны добра адрозніваюць [р] і [р'], бо для іх слыху такія тонкія адценні гучання неістотныя. Наадварот, калі тыя, для каго руская мова з'яўляецца роднай, пачынаюць гаварыць па-беларуску, часта ўпэўнены, што дастаткова цвёрда вымаўляюць [ч], беларус жа лёгка заўважае яго недастатковую цвёрдасць.

Артыкуляцыйная і перцэптыўная базы блізкародныасных моў адрозніваюцца менш, чым моў далёкіх або зусім няродныасных. Велічыня гэтага адрознення праяўляецца ў акцэнце. Неславянскія народы нашай краіны звычайна гавораць на рускай мове з такім акцэнтам, што яго мы добра адчуваем. Свой жа ўласны, паколькі руская і беларуская мовы блізкія, мы схільны не заўважаць, як не заўважаюць яго і прадстаўнікі больш далёкіх моў. Сапраўдную ацэнку вымаўленню могуць даць толькі тыя, для каго даная мова з'яўляецца роднай. Таму чым менш выражаны акцэнт, тым цяжэй яго пераадолець. Найбольш блізкімі па артыкуляцыйнай і перцэптыўнай базе з'яўляюцца мясцовыя гаворкі адной мовы. Беларускія гаворкі характарызуюцца адносна невялікімі адрозненнямі, але іх неабходна ведаць не толькі для вызначэння спосабаў засваення літаратурнага вымаўлення, але і правіл арфаграфіі. Напрыклад, калі ў гаворцы не робіцца аглушэнне звонкіх зычных (а такіх гаворак у нас шмат), то іх носьбіты чуюць звонкія зычныя ў канцы слоў і перад глухімі зычнымі нават тады, калі робіцца аглушэнне, бо так склалася іх перцэптыўная база. Таму пры пісьме прадстаўнікам такой гаворкі без усякіх праверак (а іх патрабуе правапіс) ясна, што трэба пісаць: *казка* ці *каска, ношка* ці *ножка, кот* ці *код.* У гэтым выпадку трэба вучыць у вымаўленні аглушаць зычныя ў названых фанетычных пазіцыях незалежна ад напісання, бо гэтага патрабуе літаратурная норма. Калі ж носьбіт гаворкі ў вымаўленні аглушае зычныя, уся ўвага павінна быць засяроджана на засваенні правіла правапісу глухіх і звонкіх зычных.

*Літ.:* Падлужны А. І., Чэкман В. М. Гукі беларускай мовы. Мн., 1973; Падлужны А. І. Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы. Мн., 1977.

*А. І. Падлужны.*

## АРТЫКУЛЯЦЫЯ ГУКАЎ

Артыкуляцыя гукаў (лац. artikulāre расчляняць, выразна вымаўляць) — гэта рухі органаў мовы (гл. **Органы мовы**), неабходныя для іх вымаўлення. Артыкуляцыяй называюць таксама і рух аднаго якога-небудзь органа мовы або яго становішча ў час вымаўлення пэўнага гука. Адрозніваюць тры фазы артыкуляцыі: экскурсію (прыступ), вытрымку, рэкурсію (адступленне). У час экскурсіі

органы мовы займаюць становішча, характэрнае для гука. Калі пры яго вымаўленні артыкуляцыя якога-небудзь органа не адыгрывае істотнай ролі, гэты орган загадзя займае становішча, неабходнае для вымаўлення наступнага гука. У фазе вытрымкі ўсе органы, настроеныя на вымаўленне канкрэтнага гука, затрымліваюцца ў гэтым становішчы на пэўную долю секунды. Рэкурсія — пераход органаў мовы ў зыходнае становішча, калі гучанне яшчэ працягваецца. Выразна яна назіраецца толькі перад паўзай або калі вымаўляецца толькі адзін гук. У адрозненне ад літар гукі не маюць назваў. Таму пералік артыкуляцый выкарыстоўваецца для таго, каб паказаць, які гук маецца на ўвазе, паколькі некаторыя з іх ізалявана вымавіць немагчыма (напрыклад, глухія змычныя). Артыкуляцыі трэба ведаць пры навучанні графіцы і арфаграфіі. Напрыклад, правапіс зычных нельга засвоіць, калі не ведаць, што такое глухія і звонкія, свісцячыя і шыпячыя, змычныя і змычна-шчылінныя зычныя і г. д. Без ведання артыкуляцыі нельга навучыць правільнаму літаратурнаму вымаўленню, а таксама выправіць моўныя хібы ў дзяцей і дарослых.

Пры ўтварэнні галосных гукаў крыніцай гуку з'яўляюцца галасавыя звязкі. Праходзячы праз ротавую поласць, гук, утвораны галасавымі звязкамі, мяняецца ў залежнасці ад становішча языка адносна верхняга паднябення. А яно можа быць нізкім, высокім або сярэднім. Пры нізкім становішчы языка вымаўляецца галосны [а] — гэта галосны ніжняга пад'ёму. Высокае становішча языка назіраецца пры вымаўленні [і] і [у] — галосных верхняга пад'ёму, і прамежкавае становішча язык займае пры вымаўленні [э] і [о] — галосных сярэдняга пад'ёму. (Трэба памятаць, што тут ідзе гутарка пра гук [э], як у словах *сэрца, гэты, пэцкаць.*) Галосны [ы] характарызуецца больш высокім пад'ёмам, чым [э] і [о], але больш нізкім, чым [і] і [у]. Таму яго называюць галосным сярэдне-верхняга пад'ёму. Для характарыстыкі галосных не менш важным з'яўляецца і месца, дзе гэты пад'ём адбываецца па гарызанталі: у пярэдняй, сярэдняй або задняй частцы ротавай поласці. У адпаведнасці з гэтым галосныя характарызуюцца радам — пярэднім, сярэднім або заднім. Да галосных пярэдняга рада належаць галосныя [і] і [э], сярэдняга — [ы], задняга [у], [о]. Пры вымаўленні [а] язык падымаецца ў задне-сярэдняй зоне. Важна таксама ўлічваць, што і артыкуляцыя [э] у параўнанні з [і] крыху ссунута ў сярэднюю зону. З дапамогай паняццяў пад'ёму і рада характарызуецца любы з шасці галосных гукаў, калі яны разглядаюцца ізалявана ад кантэксту. Калі галоснаму папярэднічае мяккі зычны, то ў час экскурсіі і нават вытрымкі месца пад'ёму языка пасоўваецца ў больш пярэднюю частку ротавай поласці. Ступень жа пад'ёму на вытрымцы застаецца нязменнай. Гэта значыць, што рад з'яўляецца пераменнай характарыстыкай: у адным кантэксце для аднаго і таго галоснага ён можа быць розным. Таму для галосных у беларускай мове важнае значэнне набывае артыкуляцыя губ. Пры вымаўленні галосных [у] і [о] губы выцягваюцца ўперад у выглядзе вузкай трубачкі. Іх называюць агубленымі, або лабіялізаванымі (ад лац. labium губа), астатнія — неагубленымі (нелабіялізаванымі). У беларускай мове лабіялізаванымі з'яўляюцца толькі галосныя задняга рада. Такім чынам, улічваючы найважнейшыя артыкуляцыйныя характарыстыкі галосных, іх можна падзяліць на групы, якія прадстаўлены ў табліцы 1.

Табліца 1

**Артыкуляцыйна-фізіялагічная класіфікацыя галосных**

| Пад'ём | Рад | | |
|---|---|---|---|
| | Пярэдні, неагубленыя | Сярэдні, неагубленыя | Задні, агубленыя |
| Верхні | і | ы | у |
| Сярэдні | е | | о |
| Ніжні | | а | |

Паміж верхнім паднябеннем і языком, а таксама паміж губамі пры вымаўленні галосных гукаў утвараецца шчыліна. Пры праходзе паветра праз шчыліну ўзнікае шум. Пры вымаўленні галосных памеры гэтай шчыліны такой велічыні, што шум не можа ўтварыцца. У сувязі з гэтым галосныя можна ахарактарызаваць як ротараскрывальнікі (праход для паветранага струменя значны), а зычныя — як ротазмыкальнікі (праход для паветра з ротавай поласці або зусім адсутнічае, або нязначны). Пры ўтварэнні зычных гукаў на шляху паветранага струменя ўзнікаюць перашкоды. Тып перашкоды абумоўлівае спосаб утварэння гука. Па спосабу ўтварэння зычныя падзяляюцца на змычныя, шчылінныя і змычна-шчылінныя. Важнае значэнне для характарыстыкі зычных мае месца ўтварэння перашкоды. Яно вызначаецца па актыўным органе (языку і губах) або па пасіўным (паднябенні). Па месцы ўтварэння зычныя падзяляюцца на губныя, пярэднеязычныя, сярэднеязычныя, заднеязычныя.

Пры вымаўленні змычных гукаў органы мовы ўтвараюць змычку, якая пасля хутка размыкаецца. Пры ўтварэнні [б], [п] змыкаюцца губы, [д], [т] узнікаюць у выніку змыкання і размыкання пярэдніх краёў языка з пярэднімі верхнімі зубамі, а [к], [g] — задняй часткі языка з мяккім паднябеннем. Пры гэтым утварэнне [б], [д], [g] суправаджаецца работай галасавых звязак. У выніку шум пры размыканні органаў мовы суправаджаецца голасам і гэтыя гукі называюцца звонкімі. У процілегласць ім [п], [т], [к] з'яўляюцца глухімі зычнымі. Шчылінныя зычныя [ф], [с], [ш], [х] характарызуюцца ўтварэннем шчыліны, у якой узнікае працяглы шум. Пры гуку [ф] шчыліна ўтвараецца паміж ніжняй губой (актыўны орган), якая краямі прыціскаецца да верхніх зубоў, а насупраць пярэдніх зубоў узнікае вузкі праход. Вымаўленне [с] звязана з утварэннем вузкай шчыліны паміж кончыкам языка і пярэднімі верхнімі зубамі. Праходзячы праз шчыліну, паветраны струмень разбіваецца аб верхнія зубы, ствараючы характэрны шум свісцячага характару. Гук [ш] узнікае ў шчыліне, якая ўтвараецца паміж языком і цвёрдым паднябеннем у заальвеалярнай зоне. Шчыліна ў гэтым выпадку шырокая, што абумоўлівае шыпячасць шуму. Задняя частка языка таксама прыўзнята ў напрамку да мяккага паднябення, а губы шырока раскрыты, што ставарае слыхавое ўражанне асаблівай цвёрдасці гэтага гука. Гук [х] узнікае дзякуючы ўтварэнню шчыліны паміж задняй часткай спінкі языка і мяккім паднябеннем. Па артыкуляцыі языка глухім [ф], [с], [ш], [х], пры якіх галасавыя звязкі не працуюць, цалкам адпавядаюць звонкія шчылінныя [в], [з] [ж], [г], утварэнне якіх суправаджаецца ваганнямі галасавых звязак. Артыкуляцыя змычна-шчылінных [ч], [ц], [дж], [дз] пачынаецца з утварэння змычкі, а затым узнікае шчыліна, як і пры вымаўленні [с], [ш], [ж], [з] адпаведна. Утвараецца яна раптоўна, таму і нарастанне шуму адбываецца рэзка, што выклікае адрозненне ў яго слыхавым успрыманні і ставарае цэласнасць гэтых гукаў. У адрозненне ад змычных гукаў [ч], [ц], [дж], [дз] маюць значна карацейшую змычку. Пры вымаўленні звонкіх [дж] і [дз] адначасова працуюць галасавыя звязкі, глухія ж [ч], [ц] утвараюцца пры пасіўных галасавых звязках. З названых гукаў [дз] сустракаецца рэдка ў беларускіх словах *(дзынкаць, дзвынкаць, дзылінкаць),* не шмат і запазычаняў з ім *(пэндзаль, нэндза, ксёндз* і г. д.*).* Паколькі ў другой фазе [дз] і [ц] органы мовы займаюць такое ж становішча, як і пры [з], [с], яны адносяцца да свісцячых. Адпаведна [дж], [ч] суадносяцца з [ж], [ш] і з'яўляюцца шыпячымі. Пад уплывам напісання [дж] і [дз] часам вымаўляюць як два гукі: [д] + [ж] і [д] + [з], што недапушчальна.

Асобную групу з пункту гледжання артыкуляцыі складаюць гукі [м], [н],

[л]. Па артыкуляцыі губ, языка і галасавых звязак [м] цалкам адпавядае змычнаму [б]. Адрозненне заключаецца ў становішчы мяккага паднябення. Пры вымаўленні [б] яно прыўзнята і закрывае праход для струменя паветра ў поласць носа, зычны [м] атрымліваецца, калі яно апушчана. Таму [м] у адрозненне ад [б] мае ярка выражаную насавую афарбоўку. Такую ж афарбоўку можа набываць і ўсё маўленне чалавека пры некаторых прастудных захворваннях, калі ў выніку запалення мяккае паднябенне не ў стане закрываць праход у поласць носа. Пры апушчаным мяккім паднябенні ўтвараецца і гук [н]. Для [м] і [н] характэрна тое, што размыканне змычкі губ або языка з верхнімі зубамі звычайна не суправаджаецца шумам, як гэта назіраецца пры вымаўленні [б], [д]. Гук утвараецца галасавымі звязкамі і ў далейшым толькі змяняецца ў ротавай і насавой поласцях. Паколькі для ўтварэння [м] і [н] насавая поласць мае выключнае значэнне, іх і называюць насавымі або назальнымі. Утварэнне [л] таксама звязана з узнікненнем змычкі языка з зубамі. Кончык языка злёгку прыўзняты і прыціснуты да верхніх пярэдніх зубоў. Краі языка толькі спераду прыціснуты да зубоў, а паміж заднімі карэннымі зубамі і языком з абодвух бакоў застаюцца досыць шырокія шчыліны, праз якія выпраменьваецца гукавая хваля, утвораная галасавымі звязкамі. У выніку малой скорасці паветра шум у гэтых шчылінах не ўзнікае. Гук [л] — бакавы зычны. Зычны [р] адносіцца да дрыжачых. Пры яго артыкуляцыі кончык языка падымаецца вышэй узроўню верхніх зубоў, злёгку выцягваецца ў напрамку да альвеол або нават да заальвеалярнай зоны. Задняя частка языка крыху прыўзнята да мяккага паднябення, якое закрывае праход у поласць носа. Гук утвараецца ў выніку ваганняў галасавых звязак. У той жа час кончык языка робіць вагальныя рухі, то збліжаючыся з паднябеннем, то аддаляючыся ад яго. Звычайна назіраецца адно такое ваганне, зрэдку два, а пры націску ў вымаўленні іх бывае дватры (*р-раз*). Адсюль і гукавая хваля то мацнейшая, то слабейшая. На ўчастках, калі язык аддалены ад паднябення, шуму не ўзнікае.

Зычныя [ў] і [й] па артыкуляцыі вельмі нагадваюць галосныя гукі. Пры ўтварэнні [ў] становішча губ аналагічнае іх становішчу пры галосным [у], толькі крыху меншы праход для паветранага струменя. Язык адцягнуты назад і падняты ўверх значна больш, чым пры [у]. У выніку ўтвараюцца дзве больш вузкія, чым пры [у], шчыліны: паміж верхняй і ніжняй губамі і паміж мяккім паднябеннем і задняй часткай спінкі языка. Зычны [ў] шчылінны губна-губны (білабіяльны). Але шчыліна па сваіх памерах значная і шум не ўтвараецца, таму яго адносяць да плаўных. На слых ён не заўсёды добра адрозніваецца ад губна-зубнога [в], таму што апошні можа і не мець губна-зубной артыкуляцыі, а набліжаецца да губна-губной. Фактычна пераход ад [в] да [ў] — гэта бесперапынныя прамежкавыя варыянты. Зычны [в] з выразнай губна-зубной артыкуляцыяй назіраецца перад галоснымі [ы], [е] і з губна-губной перад [у], [о].

Утварэнне зычнага [й] пасля галосных перад зычнымі і перад паўзай характарызуецца ўзнікненнем шчыліны дзякуючы пад'ёму сярэдзіны языка да сярэдзіннай часткі цвёрдага паднябення. Становішча языка падобнае на яго становішча пры артыкуляцыі галоснага [і], але пры вымаўленні [й] зона датыкання языка да паднябення большая, чым пры вымаўленні [і]. Яго разам з [ў] называюць паўгалосным або нескладовым галосным. Але дакладней абодва гэтыя гукі адносіць да зычных хоць бы на той падставе, што, як і ўсе іншыя зычныя, яны не ўтвараюць самастойнага склада. Другі варыянт [й] сустракаецца перад галоснымі (*яма, ехаць, краіна*). У гэтым выпадку ўтвараецца доўгая і дастаткова вузкая шчыліна, асабліва вузкая насупраць задняй часткі цвёрдага паднябення. Гэта сярэднеязычны зычны гук. Паколькі шчыліна вельмі вузкая, у ёй узнікаюць завіхрэнні паветранай плыні, якія ўспрымаюцца як шум. Па меры набліжэння да галоснага гук паступова ўзмацняецца, набліжаючыся да галоснага [і], што абумоўлена змяншэннем пад'ёму языка. Паступова змяншаецца і шум. Якой-небудзь прыкметнай мяжы паміж [й] і наступным галосным не назіраецца. Магчыма, таму першастваральнікі кірыліцы прыдумалі для перадачы спалучэнняў «[й] + галосны» спецыяльныя ётавыя літары *е, я, ю*.

Апісаныя артыкуляцыі зычных паказваюць, што рашаючую ролю адыгрываюць тыя з іх, якія ствараюць умовы для ўзнікнення шуму. Яны вызначаюць артыкуляцыйныя асаблівасці, дзякуючы якім кожны зычны застаецца ва ўспрыманні самім сабой, нягледзячы на тое, што папярэднія або наступныя гукі могуць іх пэўным чынам відазмяняць.

З дадатковых артыкуляцый найбольш істотнае значэнне мае палаталізацыя (ад лац. palatum паднябенне), у выніку якой утвараюцца мяккія гукі. Утварэнне цвёрдых гукаў суправаджаецца велярызацыяй (ад лац. velum мяккае паднябенне) — пад'ёмам задняй часткі языка да мяккага паднябення. Палаталізацыя зычных заключаецца ў тым, што побач з апісанымі вышэй асноўнымі артыкуляцыямі дадаткова падымаецца сярэдняя частка языка да паднябення, таму рэзка змяняецца форма ротавай поласці і гук набывае спецыфічную афарбоўку, якую і прынята называць мяккасцю. Зразумела, што палаталізаваца не можа [й], паколькі яго асноўная артыкуляцыя звязана з пад'ёмам сярэдняй часткі языка. Таму яго называюць палатальным у адрозненне ад усіх іншых мяккіх, або палаталізаваных гукаў. Мяккія губныя [п'], [б'], [м'] з'яўляюцца адпаведнымі парнымі да цвёрдых [п], [б], [м]. Асноўная артыкуляцыя — змыканне і размыканне губ — у іх такая ж, як і ў адпаведных цвёрдых. Пры змыканні губ язык не адцягваецца назад, а, наадварот, прасоўваецца наперад. К канцу змычкі ён займае становішча, блізкае да таго, якое характэрна для [і].

У звонкага зычнага [в'] губна-зубная артыкуляцыя акрэслена выразна незалежна ад таго, які галосны за ім ідзе, а язык займае становішча, як і пры іншых мяккіх зычных — блізкае да становішча пры вымаўленні [і]. Такім чынам, органы мовы ў ротавай поласці артыкулююць пры вымаўленні гэтага гука так, як і пры вымаўленні глухога [ф]: язык набліжаецца да сярэдзіны паднябення. Зычныя [дз'], [ц'] і гістарычна, і функцыянальна з'яўляюцца парнымі з [д], [т]. Аднак іх вымаўленне істотна адрозніваецца ад вымаўлення апошніх і складае адну з адметных рыс беларускай фанетыкі, якая атрымала назву дзекання і цекання. Мяккія [ц'], [дз'] па спосабу ўтварэння належаць не да змычных, як [д], [т], а да змычна-шчылінных. Пры іх вымаўленні спачатку ўзнікае змыканне языка з цвёрдым паднябеннем, а затым наступае хуткае ўтварэнне шчыліны, якая існуе пэўны час, перш чым органы мовы пяройдуць да артыкуляцый, неабходных для ўтварэння наступнага гука. Месца змыкання языка ў параўнанні з [д], [т] аказваецца ссунутым на паднябенне, а плошча змыкання істотна большай. Часта кончык языка апушчаны і не прыціскаецца да верхняга паднябення. У некаторых выпадках змычка спінкі языка з паднябеннем вельмі слабая. У час размыкання толькі пярэдняя частка языка адрываецца ад паднябення, а з бакоў змычка захоўваецца. Сярэдзіна языка прагінаецца, у выніку чаго паміж паднябеннем і спінкай языка ўтвараецца шчыліна, у якой узнікае шум, характэрны для [з'], [с'], але з рэзкім пачаткам. Зрух месца ўтварэння змычкі прыводзіць да таго, што гучанне [дз'], [ц'] набывае больш або менш значнае шапеляватае (нагадвае [ж], [ш]) адценне. Таму мяккія змычна-шчылінныя [дз'], [ц'] нельга аднесці да тыповых свісцячых, як [дз], [ц]. Да шапеляватых адносяцца таксама і мяккія шчылінныя [с'], [з']. Шчыліна ў іх таксама ўтвараецца значна глыбей у ротавай поласці, у заальвеалярнай зоне. Яе ўтварае спінка языка, бакі яго прыціскаюцца толькі да крайніх карэнных

зубоў, а кончык апускаецца да ніжніх зубоў. Сама шчыліна шырэйшая, чым у час вымаўлення цвёрдых [с], [з]. Істотна адрозніваецца і артыкуляцыя мяккага [н'] ад артыкуляцыі цвёрдага [н], бо зноў жа язык займае вельмі высокае становішча, і змычка ўтвараецца пярэдняй часткай спінкі языка, а кончык яго апушчаны. Месца змычкі ў параўнанні з цвёрдым [н] ссунута ў больш заднюю зону. Мяккі [л'], акрамя высокага, [і]-падобнага становішча языка, не мае іншых істотных артыкуляцыйных адрозненняў ад цвёрдага [л]. Мяккія [г'], [g'], [х'], [к'] адрозніваюцца ад адпаведных цвёрдых месцам утварэння. Пры вымаўленні [г'] і [х'], шчыліна ўтвараецца або на мяжы цвёрдага і мяккага паднябення, або нават насупраць задняй часткі цвёрдага паднябення. Артыкуляцыя, такім чынам, набліжаецца да сярэднепаднябеннай. Ва ўтварэнні шчыліны прымае ўдзел не столькі задняя частка спінкі языка, колькі сярэдне-задняя. Такі ж зрух у месцы ўтварэння змычкі назіраецца і ў час вымаўлення змычных [к'] і [g']. Гукі [к'] і [g'] з усіх змычных гукаў па гучанні найбольш набліжаюцца да афрыкат. Гук [й] не мае адпаведнага яму парнага цвёрдага. Зычныя [ж], [ш], [ч], [дж], [р], а таксама [ц], [дз], якія не маюць гістарычных і функцыянальных суадносін з [т], [д], мяккіх адпаведнікаў не маюць.

На аснове апісаных артыкуляцыйных асаблівасцей зычных гукаў зроблена іх артыкуляцыйна-фізіялагічная класіфікацыя, якая дадзена ў табліцы 2.

*А. І. Падлужны*

Табліца 2

**Артыкуляцыйна-фізіялагічная класіфікацыя зычных па актыўным органе**

| Па спосабу ўтварэння крыніцы гуку | | Па месцы ўтварэння | Губныя: цвёрдыя | Губныя: мяккія | Язычныя: пярэдне-язычныя: апікальныя: цвёрдыя | Язычныя: пярэдне-язычныя: апікальныя: мяккія | Язычныя: пярэдне-язычныя: дарсальныя: мяккія | Язычныя: сярэднеязычныя | Язычныя: заднеязычныя: цвёрдыя | Язычныя: заднеязычныя: мяккія |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Шумныя | змычныя | глухія | п | п' | т | | | | к | к' |
| | | звонкія | б | б' | д | | | | | ' |
| | шчылінныя | глухія | ф | ф' | с, ш | | с' | | 'g | g' |
| | | звонкія | в | в' | з, ж | | з' | й | г | г' |
| | змычна-шчылінныя | глухія | | | ц, ч | | ц' | | | |
| | | звонкія | | | дз, дж | | дз' | | | |
| | насавыя | | м | м' | н | | н' | | | |
| Санорныя | | дрыжачыя | | | р | | | | | |
| | ротавыя | плаўныя | ў | | л | л' | | й | | |

# АРФАГРАФІЧНЫЯ НОРМЫ

Арфаграфічныя нормы — гэта выбар аднаго з магчымых варыянтаў напісання слова ці яго часткі, што адпавядае прынцыпам беларускай арфаграфіі, а таксама замацаванай у моўнай практыцы грамадства традыцыі. Так, графіка дазваляе напісаць *гарадскі, гаратскі* і *гарацкі, не мог, ня мог* і *нямог*. Але толькі першы з кожных трох варыянтаў лічыцца нарматыўным. Выбар іншага варыянта вядзе да арфаграфічнай памылкі. Арфаграфічныя нормы і памылкі рэгулююцца арфаграфічнымі правіламі.

Ёсць правілы, на якія дапусціць памылкі ў напісанні чалавек можа толькі з-за няўважлівасці. Напрыклад, правапіс галосных *о, э, а* ў спрадвечнабеларускіх словах заснаваны на жывой фанетычнай заканамернасці нашай мовы — аканні: *голас, горад, чэрап, шэры* і *галасы, гарады, чарапы, шараватасць*. Правіла вельмі простае: у спрадвечнабеларускіх і даўно запазычаных іншамоўных словах *о, э* пішуцца толькі пад націскам. А вось у словах іншамоўных, фанетычна і граматычна не асвоеных, *о* пішацца і не пад націскам, калі яно знаходзіцца пасля галоснага ў канцы слова: *адажыо, трыо, сальфеджыо*. Памылка можа вынікаць пад уплывам беларускай фанетычнай заканамернасці — узнікнення ў такой пазіцыі ўстаўнога [j]: *трыё, адажыё*, як у слове *радыё*, напісанне якога з'яўляецца выключэннем.

Ненаціскное *э* ў беларускім літаратурным вымаўленні захоўваецца ў іншамоўных неславянскіх словах перад націскным складам і пасля яго. І гэта фанетычная заканамернасць, замацаваная правіламі правапісу, перадаецца на пісьме: *экзáмен, рэфóрма, óрдэн, эквáтар, экалóгія*. Аднак у гутарковай народна-дыялектнай мове паслядоўна дзейнічае фанетычны закон акання; ён падпарадкоўвае свайму ўплыву ўсе словы, у тым ліку і запазычаныя, і абумоўлівае памылкі ў напісанні: *аканамічны, равалюцыя, таорыя, атажэрка*, замест правільнага *эканамічны, рэвалюцыя, тэорыя, этажэрка*.

Правілы напісання *е, ё, я* ў беларускай арфаграфіі сапраўды універсальныя і лёгкія для засваення: у першым складзе перад націскам замест *е, ё* пішацца літара *я*, а ва ўсіх ненаціскных складах захоўваецца *е*: *лес — лясы, вёска — вяскóвы, вéцер, землетрасéнне*. Але памылкі вынікаюць у выключэннях і напісанні слоў іншамоўнага (неславянскага) паходжання, такіх, як *дзевяты, семнаццаты, семестр, кефір, Герасім, Егіпет, секунда, дзесяты, сезон, метро, герой, Еўропа* (пішуць: *сякунда, дзясяты, сязон, мятро, гярой* і нават *Яўропа*).

Лёгка дапусціць памылку ў напісанні каранёвага *я*, калі яно не пад націскам. Вучні пішуць: *месец, памецъ, цежкавата, светкавацъ, поес, заец, еравізацыя, Екімовіч, Ерашэвіч, Екубовіч* (трэба: *месяц, памяць, цяжкавата, святкавацъ, пояс, заяц, яравізацыя, Якімовіч, Ярашэвіч, Якубовіч*).

У напісанні *і, ы, й* пасля прыставак могуць быць памылкі ў выніку зблытвання аднаго правіла з другім, і на ўзор *падысці, безыдэйна* могуць напісаць і *міжынстытуцкі, звышынтэлігентны, дэзынфармацыя* і нават *педынстытут* (трэба: *міжінстытуцкі, звышінтэлігентны, дэзінфармацыя, педінстытут*). А пад уплывам рускага правапісу памылковым будзе напісанне *наіцікавейшы, наілепшы* (замест *найцікавейшы, найлепшы*).

Пры напісанні *ў* (у нескладовага), паводле вымаўлення, памылкі звычайна робяць ва ўласных назвах і імёнах: *на Украіне, да Уладзівастока, Галіна Уланава* і пад. (паводле правіла, ва ўласных назвах *ў* у пачатку ніколі не пішацца: на *Украіне, да Уладзівастока, Галіна Уланава*). Не пішацца *ў* у пачатку запазычаных слоў: *вячэрні універсітэт* (не *ўніверсітэт*), *хвалі ультрагукавыя* (не *ўльтрагукавыя*).

Правапіс спалучэнняў галосных у сярэдзіне запазычаных слоў нескладаны і грунтуецца на наступнай фанетычнай заканамернасці: калі ў спалучэнні першым галосным з'яўляецца *і* або *ы*, то паміж ім і наступным галосным узнікае зычны *(й)*: *(дыйэта), (бійограф), (рэквійэм)* і пішацца адпаведна: *дыета, біёграф, рэквіем, варыянт, авіяцыя, біёлаг*. Але здараецца, што «інерцыя» гэтага правіла пачынае дзейнічаць пры напісанні слоў іншамоўнага паходжання са спалучэннямі, якія пачынаюцца не з *і, ы*, а з іншых галосных. У выніку допускаюцца памылковыя напісанні: *ідэялогія, тэятр, акардэён, сілует, фразеялогія* замест

*ідэалогія, тэатр, акардэон, сілуэт, фразеалогія.*

Памылковыя напісанні галосных у канчатках розных часцін мовы ў некаторых склонавых формах выклікаюцца пераважна ўплывам рускага правапісу, як, напрыклад, у назоўніках жаночага роду творнага склону *песней, поўней, вішней* (правільна: *песняй, поўняй, вішняй*), у назоўніках роднага склону множнага ліку *героеў, пытанneў* (правільна: *герояў, пытанняў*), а таксама ў канчатках прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў назоўнага, роднага, давальнага склонаў (*новые, хітрые, сінега, іхнега, трэцему*). Памылкі такога тыпу стаяць на сумежжы граматыка-арфаграфічных памылак.

Колькасць правіл, заснаваных на марфалагічным прынцыпе, пераважае. Гэта — напісанне прыставак на *-д* (*ад-, над-, пад-, перад-*) і *аб-*, напісанне каранёвых зычных *ж, з, г, к, х, ш* перад свісцячымі ў геаграфічных назвах, каранёвых звонкіх перад суфіксальным *-к-*, звонкіх зычных у канцы слова. І адначасова існуюць шматлікія правілы правапісу іншых зычных (у той самай пазіцыі) на фанетычным прынцыпе, як напісанне прыставак на *-з-*, каранёвых зычных *к, т, ц, ч, ж, ш, г, х* перад суфіксальным *-с-* і інш. Таму пры недастаткова глыбокім засваенні правіл і адсутнасці ўстойлівага навыку напісання такіх арфаграм памылкі становяцца непазбежнымі. Напрыклад, з-за няўважлівасці могуць напісаць паводле марфалагічнага прынцыпу прыстаўкі на *-з-*: *узхваляваць, разказваць, церазпалосіца* (правільна: *усхваляваць, расказваць, церасполосіца*). Пад уплывам рускай арфаграфіі робяцца памылкі ў напісанні прыстаўкі *-ад-* (*атказаць, атпусціць* замест *адказаць, адпусціць*). Блытаюцца ў напісанні слоў, у якіх корань заканчваецца на *з, с, ж, ш, г, х*, а суфікс пачынаецца на *-с-* (*палескі, прыгоства, таварыскі, мноства, птаства*), і ўтвораных ад геаграфічных назваў прыметнікаў з такімі самымі спалучэннямі зычных (*нясвіжскі, каўказскі, латышскі, выбаргскі, цюрыхскі*). І як вынік з'яўляюцца памылковыя напісанні тыпу: *парыскі, добрускі, казаскі, чыкаскі* (правільнае напісанне *парыжскі, добрушскі, казахскі, чыкагскі*). Па аналогіі з правапісам прыметнікаў тыпу *рыбацкі, казацкі* часам памылкова пішуць *узбецкі, таджыцкі, мазамбіцкі*, замест *узбекскі, таджыкскі, мазамбікскі.*

Вынікаюць памылкі з-за таго, што правапіс прыметнікаў тыпу *салдацкі* (салдат+ск-і), *прэзідэнцкі, студэнцкі* «накладваецца» на правапіс слоў, у якіх корань заканчваецца на *д*. І замест *гарадскі, лідскі, грамадства* могуць напісаць *гарацкі, ліцкі* і пад.

Існуе правіла абазначэння этымалагічнай (спрадвечнай) мяккасці ў спалучэннях зычных, г. зн. мяккасці, якая не залежыць ад мяккасці наступнага гука: *дзьмуць, просьба, пяцьсот.* Мяккасць, што ўзнікае пад уплывам наступных мяккіх зычных (асіміляцыйная), на пісьме не абазначаецца, напрыклад, *змена, цвісці, дзве.* Па аналогіі з гэтым з'яўляюцца памылкі: у словах *ледзьве* (ледзь), *хтосьці* (хтось), *цьмяна* (цьма) мяккі знак могуць не паставіць, а ў словах *весці, несці, прыйсці,* наадварот, напішуць *ь* (*весьці, несьці, прыйсьці*).

Пры ўжыванні вялікай літары ў пісьмовай практыцы пераважаюць памылкі ў напісанні неафіцыйных назваў геаграфічных аб'ектаў тыпу *міншчына, брагіншчына, полаччына, палессе* (трэба: *Міншчына, Брагіншчына, Полаччына, Палессе*). Дапускаюцца памылкі ў напісанні прыналежных прыметнікаў, утвораных ад уласных імён (*янкаў сшытак, валіна кніга, васілёў партфель* — трэба пісаць з вялікай літары *Янкаў, Валіна, Васілёў*), і ў напісанні некаторых складаных назваў (*Беларускі* Дзяржаўны *педагагічны універсітэт, рэспубліка Беларусь — дзяржаўны* трэба пісаць з малой літары, *Рэспубліка* — з вялікай).

Сярод магчымых памылак правіл пераносу слоў варта мець на ўвазе тыя, што ў практыцы звычайна за памылкі не лічаць. Гэта — напісанне ініцыялаў імя і імя па бацьку і іншых умоўных скарачэнняў на адным радку і перанос прозвішча без іх на другі радок: *У.-Караткевіч, П. М.-Машэраў,* акад.*-Карскі,* тав.*-Яновіч,* праф.*-Семяновіч,* а таксама падзел для пераносу марфемных частак: *абс-тавіны, нап-рава, ма-йскі, сад-жу, ра-змах, па-дзагаловак* (правільны падзел: *аб-ставіны, на-права, май-скі, са-джу, раз-мах, пад-загаловак*).

Каб пазбавіцца арфаграфічных памылак, трэба дасканала ведаць правілы беларускай арфаграфіі, мець пад рукой даведачную літаратуру, слоўнікі і пры сумненні ў напісанні слова звяртацца да іх.

*Літ.:* Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Мн., 1959; Камароўскі Я. М. Сучасная беларуская арфаграфія. Мн., 1985; Лобан М. П., Суднік М. Р. Арфаграфічны слоўнік. 5 выд. Мн., 1982; Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне. Мн., 1987.

*В. А. Бекіш.*

## АРФАГРАФІЯ

Арфаграфія, або правапіс,— гэта сістэма правіл, якімі кіруюцца пры перадачы вуснай мовы на пісьме. Само слова «арфаграфія» прыйшло ў беларускую мову з грэчаскай (грэч. orthographia ад orthós правільны і graphō пішу). Арфаграфія цесна звязана з графікай. Графіка дазваляе напісаць і *грып*, і *грыб*, а арфаграфія выбірае адзін з варыянтаў напісання, якія дапускаюцца графікай: адно напісанне для абазначэння хваробы (*грып*), другое — для абазначэння ніжэйшай расліны (*грыб*).

Арфаграфія вызначае правілы перадачы на пісьме гукавога складу асобнага слова ці значымых частак слова (кораня, прыстаўкі, суфікса, канчатка). Гэта адна з важнейшых задач арфаграфіі, і яе вырашэнне найбольш цесна звязана з нацыянальнай спецыфікай мовы. Нават у блізкароднасных мовах, такіх, як руская і беларуская, гукавы склад асобнага слова перадаецца па-рознаму (параўнайце рускае *вода* і беларускае *вада, тишина* і *цішыня*). Арфаграфія ўстанаўлівае правілы ўжывання вялікай і малой літары, рэгламентуе правілы злітнага, паўзлітнага (праз дэфіс, або злучок) і раздзельнага напісання слоў (*затое* і *за тое, па вашаму загаду* і *хай будзе па-вашаму*). Нарэшце, арфаграфія ўпарадкоўвае правілы пераносу слоў. У функцыі арфаграфіі ўваходзіць і выпрацоўка правіл напісання абрэвіятур і розных агульнапрынятых умоўных графічных скарачэнняў.

Перадача на пісьме гукавога складу асобнага слова можа ажыццяўляцца дваякім шляхам: можна імкнуцца захаваць асаблівасці вымаўлення і пісаць «як чуеш», а можна захоўваць нязменнымі асобныя марфалагічныя часткі слова (прыстаўку, корань, суфікс і інш.), не зважаючы на тое, што, напрыклад, адна і тая ж прыстаўка ў розных словах вымаўляецца па-рознаму (прыстаўка *ад-*: у слове *адкуль* мы вымаўляем як *ат-*, у слове *аднекуль*, як *ад-*, але пішам яе заўсёды аднолькава: *ад-*). У адпаведнасці з гэтым адрозніваюцца 2 асноўныя прынцыпы арфаграфіі — фанетычны і марфалагічны; сустракаюцца таксама правапісныя нормы, замацаваныя традыцыямі. Сучасны беларускі правапіс грунтуецца на рацыянальным спалучэнні фанетычнага і марфалагічнага прынцыпаў. На фанетычным будуюцца, у прыватнасці, правілы напісання каранёвых галосных *о, э — а* і *е, ё — я* (*стол — сталы, рэкі — рака, снег — снягі, вёска — вясковы*), а на марфалагічным — правілы напісання звонкіх і глухіх зычных у корані слова (*сад, у садку; пераказ, казка, колас, каласкі*) і некаторыя іншыя правілы.

Сучасныя нормы беларускага правапісу складваліся на працягу доўгага часу. У першых помніках беларускага пісьменства (14—15 ст.), у якіх пераважна захоўваліся традыцыйныя нормы старажытнарускага правапісу, ужо знаходзілі адлюстраванне найбольш яркія рысы беларускай фанетыкі (ацвярдзенне *р*, шыпячых і *ц*, пераход *в* у *ў* у пэўным становішчы, зрэдку — аканне). Пачынаючы з 19 ст., калі народныя гаворкі сталі асновай для беларускай літаратурнай мовы, фарміруюцца і замацоўваюцца асноўныя рысы беларускага правапісу. У гэты перыяд галоўным

кірункам развіцця арфаграфіі было імкненне паўней адлюстраваць жывое вымаўленне.

Станаўленню арфаграфічных норм спрыялі першыя беларускія газеты — «Наша доля» (1906), «Наша ніва» (1906—15), дзейнасць выдавецкага таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца», легальныя і нелегальныя выданні твораў Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа і інш. Вялікае значэнне мела і навуковая распрацоўка беларускай мовы: у пачатку 20 ст. выходзіць капітальная трохтомная праца Я. Ф. Карскага «Беларусы». Пасля 1917 г., калі на беларускай мове шырока пачалі выдавацца газеты і часопісы, творы мастацкай і палітычнай літаратуры, школьныя падручнікі, узнікла патрэба ва ўстанаўленні цвёрдых норм правапісу і нармалізацыі граматычнага ладу беларускай мовы, што і было ўпершыню зроблена ў «Беларускай граматыцы для школ» Б. А. Тарашкевічам (1918). Аднак не ўсе правілы, прапанаваныя Б. А. Тарашкевічам, дакладна адлюстроўвалі асаблівасці жывой беларускай літаратурнай мовы. У сувязі з гэтым пачалася дыскусія па пытаннях правапісу, у 1926 г. была склікана Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, а ў 1930 г. быў выдадзены «Беларускі правапіс (праект)». Пасля ўсебаковага яго абмеркавання Савет Народных Камісараў БССР 26 жніўня 1933 г. прыняў пастанову «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». Гэта быў першы афіцыйны дэкрэт, які ў заканадаўчым парадку замацоўваў правілы беларускай арфаграфіі. У прыватнасці, было прыведзена ў адпаведнасць з беларускім вымаўленнем напісанне *о* ў пачатку і сярэдзіне іншамоўных слоў *(арганізацыя, калектыў)*, ненаціскны *э* пасля мяккіх зычных у спрадвечна беларускіх словах абазначаўся літарай *я* толькі ў першым складзе перад націскам, у іншых складах *е* захоўвалася і не пад націскам *(лес — лясун — лесавік)*, былі выпрацаваны правілы напісання зычных на стыку кораня і суфікса і інш. Марфалагічнаму прынцыпу адводзілася значнае месца.

У 30—40-я гг. практыка выкладання мовы ў школе, друкарская практыка выявілі шмат нявырашаных праблем правапісу, многія правілы патрабавалі перагляду. Пасля дыскусіі 1949—1957 гг. Арфаграфічная камісія пры АН БССР падрыхтавала новы праект удакладненняў і змен у беларускім правапісе. Гэты праект разгледжаны Саветам Міністраў БССР і зацверджаны 11 мая 1957 г. На яго аснове былі распрацаваны і выдадзены ў 1959 г. «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Аднак і дзеючыя правілы не ахопліваюць усіх спрэчных і няясных выпадкаў. Сустракаюцца традыцыйныя напісанні, якія не адпавядаюць сучасным нормам пісьма: *дзевяты, дзесяты, семнаццаць* і г. д. Патрабуе пастаяннай увагі правапіс запазычаных слоў. Запазычаныя словы паступова асвойваюцца беларускай мовай, і тыя словы, якія раней не падлягалі агульным правілам, з цягам часу трацяць свае «прывілеі», і мы пачынаем іх пісаць як свае *(сяржант, каляндар)*. Да гэтага часу застаецца не да канца вырашанай праблема напісання складаных слоў: па-першае, ідзе няспынны працэс утварэння новых складаных слоў, і ўвесь час узнікаюць пытанні: пісаць часткі гэтых слоў асобна, разам ці праз злучок; па-другое, як быць з пабочным націскам у першай частцы складаных слоў: дзе гэты пабочны націск праясняецца, а дзе — не (ад гэтага залежыць напісанне *е* ці *я*, *о*, *э* ці *а* ў першай частцы складанага слова). Праца па ўдасканаленні правіл беларускай арфаграфіі працягваецца.

*Літ.:* Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Мн., 1959; Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія. Мн., 1961; Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фразеалогія. Лексікаграфія. Фразеаграфія. Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. 2 выд. Мн., 1984; Беларуская мова. Цяжкія пытанні. Мн., 1987; Камароўскі Я. М. Сучасная беларуская арфаграфія. Мн., 1985; Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## АРФАЭПІЧНЫЯ НОРМЫ

Арфаэпічныя нормы — гэта захаванне патрабаванняў літаратурнага вымаўлення носьбітамі беларускай літаратурнай мовы. Парушэнне такіх норм вядзе да арфаэпічных памылак. Прычыны апошніх розныя. Адна з іх — уплыў дыялектнай мовы. Вынік яго — захаванне ў вымаўленні гукаў ці іх спалучэнняў пэўных дыялектных рыс, што не супадаюць з фанетычнымі рысамі літаратурнай мовы. Парушэнні такога тыпу назіраюцца ў людзей, якія ў дзяцінстве карысталіся дыялектнай мовай. Дыялектным уплывам тлумачацца змяненні якасці галосных гукаў у літаратурнай мове выхадцаў з розных раёнаў Беларусі. Такім з'яўляецца вымаўленне на месцы [а] перад [ў] гука [о]: *наст[о]ўнік* (наст[а]ўнік), *пр[о]ўда* (пр[а]ўда), *сказ[о]ў* (сказ[а]ў), *у[з'о]ў* (у[з'а]ў). На месцы [ы] пасля губных [б], [в], [м], [п] некаторымі асобамі, для якіх роднымі з'яўляюцца так званыя ўкаючыя гаворкі, вымаўляецца [у]: *б[у]к* (б[ы]к), *в[у]касіць* (в[ы]касіць), *пам[у]лка* (пам[ы]лка), *кап[у]т* (кап[ы]т). У тых, хто нарадзіўся на Магілёўшчыне, сустракаецца вымаўленне замест ненаціскнога [ы] гука [а]: *п[а]танне* (п[ы]танне), *бр[а]гадзір* (бр[ы]гадзір), б[а]ла (б[ы]ла). Розным характарам акання і якання ў літаратурнай і дыялектнай мовах выкліканы адхіленні ў вымаўленні ненаціскных галосных: *в[ы]да* (в[а]да), *н[ы]га* (н[а]га); *мног[о]* (мног[а]), *сал[о]* (сал[а]), *мор[э]* (мор[а]), *пiш[э]* (піш[а]); *[н'э]су* ([н'а]су), *[ц'э]гну* ([ц'а]гну), *б[і]да* ([б'а]да), *в[і]сна* ([в'а]сна), *вос[і]нь* (во[с'э]нь), *воз[і]ра* (во[з'э]ра). Да арфаэпічных памылак, крыніцай якіх з'яўляюцца розныя беларускія гаворкі, адносяцца таксама наступныя: вымаўленне на месцы падоўжаных зычных скарочаных або зусім кароткіх гукаў: *насе [н']е* (насе[н̄']е), *га[л']ё* (га[л̄']ё), *збо[ж]а* (збо[ж̄]а); парушэнне правіла аглушэння зычных: *гора[д]* (гора[т]), *но[ж]* (но[ш]), *ка[з]ка* (ка[с]ка); вымаўленне замест спалучэння [с'ц'] гука [с']: *рада[с']* (рада[с'ц']), *маладо[с']* (маладо[с'ц']); памякчэнне [з], [с] перад заднеязычнымі гукамі [г'], [к'], [х']: *[з']гінуць* ([з]гінуць), *[с']кінуць* ([с]кінуць), *[с']хіліць* ([с]хіліць) і інш.

Другая прычына арфаэпічных памылак — уплыў рускай мовы, якой валодае большасць жыхароў Беларусі. Парушэнні арфаэпічных норм узнікаюць пры недасканалым валоданні беларускай і рускай мовамі, пры неразмежаванні фанетычных асаблівасцей гэтых дзвюх моў. Яны назіраюцца ў маўленні людзей, якія часцей карыстаюцца рускай мовай і пераносяць асобныя яе рысы ў беларускую: вымаўленне [г] выбухнога на месцы фрыкатыўнага [γ]: *[г]орад* ([γ]орад), *я[г]ады* (я[γ]ады), *[г]рыбы* ([γ]рыбы); вымаўленне [ч] як [ч']: *[ч']алавек* ([ч]алавек), *ру[ч']аіка* (ру[ч]аінка), *хлап[ч']укі* (хлап[ч]укі); вымаўленне гукаў [л], [в], [ф] на месцы губна-зубнога гука [ў]: *хадзі[л]* (хадзі[ў]) *пра[в]да* (пра[ў]да), *тра[ф]ка* (тра[ў]ка); вымаўленне двух асобных гукаў [д] і [ж] або гука [ж] на месцы афрыкаты [дж]: *ура[д-ж]ай, ура[ж]ай* (ура[дж]ай); цвёрдае вымаўленне [з], [с] перад мяккімі зычнымі замест [з'], [с']: *[з]мест* ([з']мест), *[з]вінець* ([з']вінець), *[с]нег* ([с']нег), *[с]ветлы* ([с']ветлы). Вымаўленне спалучэння гукаў [шч] як [шш]: *[шш]асце* ([шч]асце), *[шш]аўе* ([шч]аўе — таксама ўзнікла пад уплывам рускай мовы, у якой адпаведна беларускаму спалучэнню цвёрдых шыпячых [шч] ужываецца [ш̄'] ([ш] — доўгі мяккі). Вымаўленне [р'] замест [р] можа быць выклікана ўплывам як дыялектнай, так і рускай моў: *[р']эчка* ([р]эчка), *[р']эдкі* ([р]эдкі), *ся[р']эдні* (ся[р]эдні).

Прычынай парушэння літаратурнага вымаўлення з'яўляецца таксама ўплыў арфаграфіі. Вядома, што вымаўленне і напісанне супадаюць не заўсёды: так, у словах *горад, агарод, кладка* пішам літару *д*, а вымаўляем

гук [т]: *агаро*[т], *гора*[т], *кла*[т]*ка*. Арфаэпічныя памылкі ўзнікаюць пры палітарным чытанні, калі чытаюць, як напісана, і не звяртаюць увагі на адрозненні паміж напісаннем і вымаўленнем. Пры чытанні па літарах не толькі замацоўваюцца памылкі, якія ўзніклі пад уплывам дыялектнай і рускай моў, але і ўзнікаюць спецыфічныя: напрыклад, вымаўленне [і] без прыстаўнога [й] у пачатку слова: [*і*]*ней* ([йі]ней), [*і*]*х* ([йі]х); вымаўленне [э] у часціцы *не* і прыназоўніку *без*, калі яны стаяць перад словам з націскам на першым складзе: [*н'э*]*ведаю* ([н'а]ведаю), [*н'э*]*буду* ([н'а]буду), [*б'э*]*з радасці* ([б'а]з радасці). Сустракаецца таксама ізаляванае палітарнае вымаўленне спалучэнняў зычных [шс'], [чц], [зж], [дц], [жц], [жч], [сч], [гч], [сш], [дч], [дс], якое не адпавядае літаратурнаму (гл. **Арфаэпія**): *нагледзі*[*шс'*]*я*, *мама*[*чц*]*ы*, *ра*[*зж*]*ыуся*, *у ло*[*дц*]*ы*, *у кні*[*жц*]*ы*), *му*[*жч*]*ына*, *пя*[сч]*аны*, *дапама*[*гч*]*ы*, [*сш*]*ытак*, *а*[*дч*]*уць*, *гара*[*дс*]*кі*.

Да памылак вуснага маўлення належыць ненарматыўны выбар месца націску ў асобных словах у выніку пранікнення ў літаратурную мову дыялектных акцэнтных асаблівасцей (*аглаблЯ, бульбіна, вугОл, жалУд, жЫхар, цЯжар, бульбЯны, крупЯны, сІвы, слабЫ, заінЕць, мІльгаць, вЫсака, глЫбака*), уплыву акцэнтуацыйных норм рускай літаратурнай мовы (*абутнік, аснаўны*), няправільнага засваення месца націску ў запазычаных словах (*Агент, Аер, Алкагаль, дакУмент, магАзін*).

Любыя адхіленні ад норм літаратурнага вымаўлення перашкаджаюць моўным зносінам паміж людзьмі. Веданне іх прычын дапамагае пазбегнуць памылак, засвоіць правільнае літаратурнае вымаўленне, якое з'яўляецца паказчыкам не толькі культуры мовы, але і агульнай культуры чалавека. Трэба вывучаць і асаблівасці беларускіх гаворак, і арфаэпічныя нормы беларускай мовы. Карыстаючыся вуснай формай літаратурнай мовы, неабходна кантраляваць сваё вымаўленне. Фарміраванню правільнага літаратурнага вымаўлення спрыяе назіранне за мовай адукаваных людзей, веданне асаблівасцей работы моўнага апарата, спецыяльныя практыкаванні ў вымаўленні гукаў і іх спалучэнняў.

*Літ.*: Янкоўскі Ф. М. Беларускае літаратурнае вымаўленне. 4 выд. Мн., 1976; Падлужны А. І. Нормы беларускага літаратурнага вымаўлення // Сучасная беларуская мова: (Пытанні культуры мовы). Мн., 1973; Бірыла М. В. Націск назоўнікаў у сучаснай беларускай мове. Мн., 1986; Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне. Мн., 1987; Арашонкава Г. У., Лемцюгова В. П. Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы. Мн., 1987.

*Л. М. Грыгор'ева.*

Арфаэпія [грэч. orthoépeia ад orthós правільны і épos мова, гаворка] — гэта сукупнасць правіл (норм) вымаўлення асобных гукаў і іх спалучэнняў, а таксама раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца гэтыя правілы.

Арфаэпічныя нормы, уласцівыя вуснай форме літаратурнай мовы, забяспечваюць яе адзінае гукавое афармленне і робяць маўленне дасканалым сродкам моўных зносін. Арфаэпія ахоплівае ўсю фанетычную сістэму мовы, г. зн. гукі, іх якасць, фанетычна абумоўленыя змяненні. Да арфаэпіі належыць таксама вымаўленне гукаў, якое не вызначаецца фанетычнымі асаблівасцямі мовы, а звязана з пэўнымі асаблівасцямі яе лексічнага складу. Напрыклад, важнай рысай беларускай фанетыкі з'яўляецца асімілятыўнае памякчэнне зычных гукаў [с], [з] у становішчы перад мяккімі зычнымі: [*с'*]*негавік*, *пе*[*с'*]*ня*, [*з'*]*лёт*, *у*[*з'*]*бярэжжа*. Правіла аб вымаўленні гэтых гукаў поўнасцю адпавядае фанетычнай асаблівасці беларускай мовы. Або такі прыклад: афрыката [дж] вымаўляецца як адзін гук: *даж*[*дж*]*ы*, *ха*[*дж*]*у*, але ў некаторых запазычаных словах можа быць спалучэнне гукаў [д]-[ж]: [*д*]-[*ж*]*эм*, *камба*[*д*]-[*ж*]*ыец*, *та*[*д*]-[*ж*]*ык*. Літары *д* і *ж* могуць не ўтвараць афрыкаты і ў беларускіх словах на стыку марфем: *па*[*д*]-[*ж*]*аць*, *а*[*д*]-[*ж*]*ыць* і пад.

Арфаэпічнымі нормамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы прадугледжваецца аднастайнае вымаўленне галосных і зычных гукаў, спалучэнняў зычных. Правілы вымаўлення і напісання галосных у пераважнай большасці выпадкаў супадаюць. Пад націскам усе галосныя вымаўляюцца выразна: *р*[*э́*]*кі*, [*з'э́*]*млі*, *в*[*о́*]*льны*, [*л'о́*]*гкі*, *пр*[*а́*]*вільны*, *з*[*в'а́*]*зка*. [*в'і*]*льгаць*, *в*[*ы́*]*бары*, *д*[*у́*]*мка*, [*дз'у́*]*ба*.

У вымаўленні галосных не пад націскам адзначаюцца пэўныя асаблівасці. Ненаціскныя гукі [э], [о], [а] пасля цвёрдых зычных ва ўсіх складах — пераднаціскных і паслянаціскных — вымаўляюцца як выразны гук [а], толькі карацейшы за націскны («аканне», на пісьме абазначаецца літарай *а*): *р*[*а*]*чны*, *ц*[*а*]*на́*, *дв*[*а*]*ры́*, *г*[*а*]*рады́*, *тр*[*а*]*ва́*, *с*[*а*]*даві́на*, *палі́ц*[а]. Галосны [э] у ненаціскным становішчы захоўвае сваё гучанне толькі ў словах іншамоўнага паходжання: [*э*]*по́ха*, [*э*]*кскава́тар*, *р*[*э*]*канстру́кцыя*. На пісьме гэтаму гуку адпавядае літара *э*. У некаторых словах, запазычаных праз рускую мову, пасля [р], [ц] вымаўляецца як [ы] (на пісьме перадаецца літарай *ы*): *бр*[*ы*]*зе́нт*, *др*[*ы*]*зі́на*, *інж*[*ы*]*не́р*, *канц*[*ы*]*ля́рыя*, *р*[*ы*]*со́ра*. Словы з націскнымі складамі *ро, ло, рэ* не падпарадкоўваюцца аканню. Не пад націскам [о], [э] у розных формах слова або ў аднакаранных словах замяняюцца гукам [ы]: *кр*[*о*]*ў* — *кр*[*ы*]*ві́*, *гл*[*о́*]*тка* — гл[ы]то́к, *бл*[*о́*]*хі* — *бл*[*ы*]*ха́*, *хр*[*э́*]*сьбіны* — *хр*[*ы*]*шчэ́нне*. У запазычаных словах, якія заканчваюцца спалучэннямі галосных, не пад націскам вымаўляецца гук [о], *ада́жы*[*о*], *сальфе́джы*[*о*], тры́[*о*], *Анто́ні*[*о*], *Більба́*[*о*], *Ватэрло́*[*о*]. Пасля мяккіх зычных гукі [э], [о], [а] вымаўляюцца як [а] толькі ў першым складзе перад націскам («яканне», на пісьме — літара *я*): [*в'а*]*се́лле*, [*л'а*]*со́к*, [*м'а*]*до́к*, [*с'а*]*ло́*, *г*[*л'а*]*дзе́ць*. У часціцы *не* і прыназоўніку *без* вымаўляецца [а], калі націск падае на першы склад наступнага за імі слова: [*н'а*] *ве́даў*, [*н'а*] *пры́йдзе*, [*б'аз*] *ры́бы*, [*б'аз*] *ба́цькі*. У першым пераднаціскным складзе [э] захоўваецца ў большасці запазычаных слоў *а*[*б'э*]*лі́ск*, [*б'э*]*нзі́н*, [*г'э*]*ро́й*, [*м'э*]*да́ль*, [*п'э*]*ро́н*, [с'э]зо́н, але [*с'а*]*ржа́нт*. Ва ўсіх іншых ненаціскных складах пасля мяккіх зычных у спрадвечна беларускіх словах вымаўляецца [э], набліжаны да [а]: [*з'эал'эа*]*нава́ты*, *во́*[*з'эа*]*ра*, [*с'эа*]*ля́нін*. На месцы спрадвечнага (этымалагічнага) [а] у гэтых складах можа вымаўляцца таксама выразны гук [а]: [*л'а*]*мантава́ць*, [*п'а*]*цярня́*, [*ц'а*]*гнікі́*, *су́*[*в'а*]*зь*, параўнанне [*л'а́*]*мант*, [*п'а́*]*ць*, [*ц'а́*]*гнеш*, [*в'а́*]*жаш*. У лічэбніках *дзевяты, дзесяты, семнаццаць, васемнаццаць* у першым складзе перад націскам дапускаецца варыянтнае вымаўленне гукаў [э], [эª] або [а]: [*дз'э*]*вя́ты*, *дз'э*ª]*вя́ты*, [*дз'а*]*вя́ты*.

Націскныя і ненаціскныя галосныя [і], [ы] пасля зычных у сярэдзіне слова вымаўляюцца выразна: [*л'і*]*тара*, [*в'і*]*нава́ты*, *назо́ў*[*н'і*]*к*, *пам*[*ы́*]лка, *п*[*ы*]*та́нне*, *дабе́гч*[*ы*]. Перад націскным [і] у пачатку слова і ў сярэдзіне пасля галоснага ў вымаўленні развіваецца прыстаўны зычны гук [й]: [*й*]*і́хні*, [*й*]*і́ней*, [*й*]*і́скры*, *кра*[*й*]*і́на*, *ма*[*й*]*і́мі*. Прыстаўны [й] з'яўляецца таксама пасля галоснага, пасля апострафа і мяккага знака як перад націскным, так і перад ненаціскным [і]: *кра*[*й*]*і*, у *сям'*[й]*і*, у *Іль*[*й*]*і*, *у выра*[*й*]*і*, *се́м'*[*й*]*і*, *Іль*[*й*]*іча́*. У запазычаных агульных і ўласных назоўніках перад пачатковым націскным [і] прыстаўны гук [й] можа не развівацца: *і́мпарт, імпульс, Інга, Ігар, Індыя*. Пасля цвёрдага зычнага на стыку слоў, частак складанага слова або марфем вымаўляецца гук [ы], які на пісьме можа абазначацца як літарай *ы*, так і літарай *і*: *брат*[*ы*]*сястра*, *пед*[*ы*]*нстыту́т*, *уз*[*ы*]*сці́*. Пачатковы ненаціскны [і], а таксама злучнік *і* пасля слова, якое заканчваецца на галосны, пры адсутнасці паўзы паміж словамі замяняецца ў вымаўленні на [й]: *на* [*й*]*гры́шчы*, *маці* [*й*] *дачка*, *прыйшлі* [*й*] *сказалі*, *не* [*й*]*дзі*. Такая ж заме-

на адбываецца і пасля прыставак на галосны: *за*[*й*]*гра́ць, па*[*й*]*сці, вы́*[*й*]-*сці*.

Галосны [у] вымаўляецца выразна і ў націскным, і ў ненаціскным становішчы: *в*[*у́*]*ліца, адв*[*у*]*чыцца, г*[*у*]*тарко́вы, сцісн*[*у*]*ць*. Пасля галоснага пачатковы [у] і прыназоўнік *у* замяняюцца на зычны [ў]: *прыехалі* [*ў*]*чора, дарога* [*ў*] *полі, ва* [*ў*]*ніверсітэце, брата* [*ў*]*ладзіміра* (Уладзіміра), *на* [*ў*]*рале* (на Урале), (ва ўласных назвах і запазычаных словах пачатковы гук [ў] на пісьме абазначаецца адпаведна літарай *У, у: ва Ушачах, новы ўніверсам*). Гук [ў] не вымаўляецца ў запазычаных словах, калі [у] утварае самастойны склад (*аквары*[*у*]*м, калёкві*[*у*]*м*).

Вымаўленне зычных гукаў і іх спалучэнняў таксама павінна быць аднастайным ва ўсіх, хто карыстаецца вуснай формай літаратурнай мовы.

Гук [γ] вымаўляецца працяжна. Гэты заднеязычны звонкі і шчылінны гук сустракаецца як у спрадвечна беларускіх, так і ў большасці запазычаных слоў: [*γ*]*арох, а*[*γ*]*арод,* [*γ'э*]*ктар,* [*γ*]*арнізон*. Выбухны [г] вымаўляецца толькі ў некаторых запазычаных словах, у спалучэнні [зг] і на месцы [к] перад звонкімі зычнымі: [*г*]*анак,* [*г*]*узік,* [*г*]*онта,* [*г*]*аза,* [*г*]*валт,* [*г'і*]*рса, шва*[*г'э*]*р, ма*[*зг'і*], *рэ*[*зг'і*]*ны, ва*[*г*]*зал* (вакзал), *ру*[*г*]*зак* (руксак), *э*[*г*]*замен* (экзамен), *э*[*г*]*земпляр* (экземпляр), *та*[*г*] *было* (так было).

Губна-зубны гук [в] вымаўляецца перад галоснымі: *гала*[*в*]*а,* [*в*]*ышыня*. Пасля галоснага перад зычным і пасля галоснага ў канцы слова ён замяняецца губна-губным гукам [в], які на пісьме абазначаецца літарай *ў: галоўка, траўка, галоў, травалў*.

Гукі [ж], [ш], [дж], [ч], [р] у беларускай літаратурнай мове заўсёды цвёрдыя: [*жы*]*віца,* [*шэ*]*сце, даж*[*джы*], [*ча*]*тыры,* [*ра*]*біна*.

Гукі [д͡ж], [д͡з], [д͡з'] — афрыкаты (злітныя); яны вымаўляюцца як адзін гук, які на пісьме абазначаецца дзвюма літарамі, але ад афрыкат трэба адрозніваць спалучэнні літар *дж, дз*, якія на стыку прыстаўкі і кораня абазначаюць два гукі і вымаўляюцца раздзельна: *а*[*д*]-[*ж*]*ыць, па*[*д*]-[*ж*]-*аць, па*[*д*]-[*ж*]-*ылкі, па*[*д*]-[*з*]*емны*. Афрыката [д͡ж] сустракаецца ў спрадвечна беларускіх словах, пераважна ў дзеясловах і аддзеяслоўных назоўніках, а таксама ў некаторых запазычаных: *са*[*д͡ж*]*у, са*[*д͡ж*]*анец, агаро*[*д͡ж*]*аны, агаро*[*д͡ж*]*а,* [*д͡ж*]*эмпер*. Цвёрдая афрыката [д͡з] ужываецца ў некаторых гукаперайманых беларускіх словах і запазычаннях з польскай мовы: [*д͡з*]*ынкаць,* [*д͡з*]*вынкаць, пэн*[*д͡з*]*аль, нэн*[*д͡з*]*а, ксян*[*д͡з*]*а*, а таксама на стыку слоў перад звонкім зычным: *хлопе*[*д͡з*] *бы прыйшоў* (хлопец бы прыйшоў). Мяккая афрыката [дз'] больш пашырана ў беларускай мове: [*д͡з'э*]*ці,* [*д͡з'а*]*ліць, бара*[*д͡з'*]*ба, каман*[*д͡з'і*]*р,* [*д͡з'у*]*на*.

Гукі [д], [т] пры змякчэнні вымаўляюцца як [дз'], [ц'] («дзеканне» і «цеканне»): *брыга́*[*д*]*а — у брыга*[*дз'э*], *пала́*[*т*]*а — у пала́*[*ц'э*]. У пераважнай большасці запазычаных слоў гукі [д], [т] вымаўляюцца цвёрда: [*д*]*эка́н,* [*д*]*ывізія,* [*д*]*элега́т,* [*т*]*эа́тр, кры́*[*т*]*ыка*, але: [*дз'у*]*шэс, э*[*ц'у*]*д,* [*ці*]*р,* [*ц'у*]*ль*. Перад мяккім [в'] гукі [д], [т] змякчаюцца і змяняюцца на [дз'], [ц']: *ба*[*ц'*]*вінне,* [*ц'*]*вёрды, змяр*[*ц'*]*велы, ча*[*ц'*]*вёрты,* [*д͡з'*]*веры,* [*д͡з'*]*ве*. На стыку прыстаўкі і кораня, у прыназоўніках, у формах давальнага і меснага склону назоўнікаў на *-тва, -тво* перад мяккім [в'] зычныя [д], [т] не памякчаюцца: *а*[*д*]*весці, па*[*д*]*вечар, у Лі*[*т*]*ве, у харас*[*т*]*ве*.

Гукі [з'], [с'], [дз'], [ц'] сваім утварэннем адрозніваюцца ад адпаведных парных цвёрдых гукаў [з], [с], [дз], [ц]. Пры іх вымаўленні язык прыціскаецца да пярэдняй часткі цвёрдага паднябення, а таму яны больш мяккія, чым у рускай мове. Гукі [з], [с] у адпаведнасці з правіламі літаратурнага вымаўлення памякчаюцца перад мяккімі зычнымі і ў словах, і на стыку слоў (асімілятыўнае памякчэнне): [*з'*]*мена, бая*[*з'*]*лівы,* [*з'*] *дзедам,* [*с'*]*ветлы,* [*с'*]*мех,* [*с'*] *сіняга неба*. Перад заднеязычнымі мяккімі [г'], [к'], [х'] такога памякчэння не адбываецца: [*з*]*гінацца,* [*с*]*кінуць,* [*с*]*хіліцца*.

Гукі [н], [л] памякчаюцца перад мяккімі [д͡з], [ц'], [н'], [й]: *му*[*н'*] *дзір, на фро*[*н'*]*це, малі*[*н'*]*нік, ка*[*н'йа*]*к, насто*[*л'*]*нік*.

Падоўжаныя зычныя вымаўляюцца як адзін доўгі гук: *га*[*л'*]*ё, пыта*[*н'*]*е, збо*[*ж̄*]*а, узвы*[*ш̄*]*а*.

Звонкія зычныя на канцы слова і перад глухімі вымаўляюцца як глухія, а глухія перад звонкімі — як звонкія: *наро*[*т*] (народ), *хле*[*п*] (хлеб), *яга*[*т*]*ка* (ягадка), *гры*[*п*]*кі* (грыбкі), *ка*[*з'*]*ба* (касьба), *фу*[*д*]*бол* (футбол).

У спалучэннях шыпячых гукаў са свісцячымі або свісцячых з шыпячымі папярэдні гук прыпадабняецца да наступнага: *купае*[*с̄'*]*я* (купаешся), *у крыні*[*ц̄*]*ы* (у крынічцы), [*ж̄*]*аты* (зжаты), *пагру*[*шч*]*ык* (пагрузчык), *ра*[*шч*]*ысціць* (расчысціць), *ра*[*ш̄*]*ыць* (расшыць).

Да наступных гукаў прыпадабняюцца [д], [т] у спалучэннях *дч, тч, дц, тц*, і гэтыя спалучэнні вымаўляюцца адпаведна як [ч̄] або [ц̄]: *перакла*[*ч̄*]*ык* (перакладчык), *пераплё*[*ч̄*]*ык* (пераплётчык); *у ло*[*ц̄*]*ы* (у лодцы), *у пала*[*ц̄*]*ы* (у палатцы). Спалучэнне *зск* вымаўляецца як [ск]: *каўка*[*ск'*]*і* (каўказскі); спалучэнне *дск* — як [цк]: *грама*[*цк'*]*і* (грамадскі); *стн* — як [сн]: *кантра*[*сн*]*ы* (кантрастны).

У спалучэннях [кл'], [бл'], [бр], [пр], [рн], [тр], калі імі заканчваецца слова, паміж зычнымі з'яўляецца рэдукаваны (скарочаны) гук [ъ], падобны да [а]: *спекта*[*къл'*] (спектакль), *ансам*[*бъл'*] (ансамбль), *ве*[*пър*] (вепр), *зу*[*бър*] (зубр), *ме*[*тър*] (метр), *го*[*рън*] (горн), у некаторых спалучэннях гэта замацавалася і на пісьме (*дзёран*).

Спалучэнне *чн* вымаўляецца так, як пішацца: *ру*[*чн*]*ы, па*[*чн*]*у, сма*[*чн*]*ы*, але *яе*[*чн*]*я* і *яе*[*шн*]*я*. У словах, якія заканчваюцца спалучэннем [с'ц'], апошні гук вымаўляецца выразна: *рада*[*с'ц'*] (радасць), *магчыма*[*с'ц'*] (магчымасць), *свежа*[*с'ц'*] (свежасць).

Арфаэпічныя нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы сфарміраваліся паступова. У канцы 19 — пачатку 20 ст. беларуская мова не мела дасканалага правапісу, не існавала і строгіх вымаўленчых норм, якія складваюцца і замацоўваюцца звычайна пазней за арфаграфічныя. Аднак у вымаўленні людзей, што карысталіся вуснай формай беларускай мовы, назіраліся агульныя рысы, абумоўленыя артыкуляцыйнай базай, натуральным укладам моўных органаў, а таксама асаблівасцямі беларускай фанетыкі: аканне, дзеканне і цеканне, мяккія афрыкаты [д͡з'] і [ц'], зацвярдзелыя [ж], [ш], [д͡ж], [ч], [р], фрыкатыўны [γ] губна-губны [ў], асімілятыўная мяккасць [з'], [с'] і інш. Гэтыя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы замацаваліся як арфаэпічныя правілы. Выпрацоўцы арфаэпічных норм спрыяла ўпарадкаванне беларускага правапісу, значная частка правіл якога грунтуецца на фанетычным прынцыпе і адпавядае вымаўленню. Пашырэнне сферы ўжывання вуснай літаратурнай мовы ў 1920-я гады, адкрыццё ў 1920 г. Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Мінску, у 1926 г.— Другога беларускага тэатра ў Віцебску, павелічэнне колькасці навучальных і культурна-асветных устаноў адыгралі пэўную ролю ў стабілізацыі норм вуснай літаратурнай мовы, якія склаліся пераважна да 30-х гадоў 20 ст.

Нормы вымаўлення змяняюцца разам з развіццём мовы, яны толькі адносна стабільныя. Змены ў беларускім правапісе (1933 г.; 1957 г.), а таксама ўплыў дыялектнай мовы прывялі да наяўнасці варыянтаў у вымаўленні некаторых слоў. Так, у «Беларускай граматыцы для школ» Б. Тарашкевіча (1918) адзначалася, што *не* і *без*, калі яны пішуцца асобна, «лічацца за склад слова, перад якім яны стаяць» і «падпадаюць пад агульнае правіла аб аканні», а таму пісалі: *ня буду, бяз гора*. Гэтае правіла адлюстроўвала фанетычную асаблівасць беларускай мовы («яканне») і спрыяла замацаванню яе як арфаэпічнай нормы. Рэформай правапісу ў 1933 г. гэтае правіла заменена: з таго часу «*не* і *без*, калі яны стаяць

асобна, заўсёды пішуцца праз *е*». Пад уплывам арфаграфіі і побач з нарматыўным вымаўленнем часціцы *не* і прыназоўніка *без* (*[н'а] думай*, *[б'аз] вас*) назіраецца такое: *[н'э] думай*, *[б'эз] вас*. Удакладненні ў правапісе 1957 г. прывялі да змянення ў вымаўленні «інтэрнацыянальна-рэвалюцыйных слоў», напісанне якіх і вымаўленне не падпарадкоўвалася агульнаму правілу аб аканні (правапіс 1933 г.): *рэволюцыя, совет, большэвік, пролетарый, комуна, соцыялізм, комунізм, комсамол, піонер.* Прыкладам змянення арфаэпічных норм з'яўляецца таксама замена мяккага гука [л'] цвёрдым [л] у запазычаных словах: *[Ло] ндан* (Лондан), *фі [ла] софія, мана [ло] г* (раней вымаўлялася і пісалася: *[Л'о] ндон* (Лёндон), *фі [л'о] зофія* (філёзофія), *моно- [л'о] г* (монолёг)]. Пад уплывам дыялектнай мовы замацавалася вымаўленне і напісанне форм 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў з канчаткам *-ом (-ём) (бяром, нясём, ідзём).*

Аднастайнае вымаўленне, як і аднастайны правапіс, мае вялікае практычнае значэнне. Валоданне арфаэпічнымі нормамі з'яўляецца абавязкам тых людзей, якія карыстаюцца вуснай літаратурнай мовай у сваёй працы, у публічных выступленнях перад масавым слухачом. Павышэнне ролі вуснай беларускай мовы ў грамадскім жыцці — адзін з істотных фактараў удасканалення арфаэпічных норм.

*Літ.:* Бірыла М. В. Да пытання аб фарміраванні і важнейшых нормах беларускага літаратурнага вымаўлення // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1958. № 3; Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія. Мн., 1961; Янкоўскі Ф. М. Беларускае літаратурнае вымаўленне. 4 выд. Мн., 1976; Фанетыка слова ў беларускай мове. Мн., 1983; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; Выгонная Л. Ц. Інтанацыя. Націск. Арфаэпія. Мн., 1991.

*Л. М. Грыгор'ева.*

## «АРЫСТОЦЕЛЕВЫ ВАРОТЫ, АБО ТАЙНАЯ ТАЙНЫХ»

Пад такой назвай у гісторыі беларускага пісьменства вядомы павучальна-дыдактычны твор, нібыта адрасаваны старажытнагрэчаскім філосафам Арыстоцелем славутаму палкаводцу старажытнасці Аляксандру Македонскаму. Да Арыстоцеля ён ніякіх адносін не мае. Узнікшы ў арабскай літаратуры 10—11 ст., каля 13 ст. ён быў перакладзены на лацінскую мову і ў выглядзе рукапісаў і друкаваных выданняў распаўсюдзіўся ў краінах Заходняй Еўропы, паслужыўшы там крыніцай для перакладаў на мясцовыя мовы. Але беларускі спіс твора па колькасці раздзелаў і іх змесце не супадае з заходнееўрапейскай рэдакцыяй. Наяўнасць у ім некаторых яўрэйскіх слоў, якіх няма ў заходнееўрапейскіх тэкстах, дае падставу меркаваць, што беларуская рэдакцыя



**«Арыстоцелевы вароты, або Тайная тайных» (старонка). Беларускі спіс. 16 ст.**

ўзыходзіць да прамежкавага яўрэйскага спіса, які таксама з'яўляецца перакладам нейкай іншай версіі арабскага арыгінала. Дакладных звестак пра час узнікнення беларускага спіса няма. Аднак тыповае паўустаўнае пісьмо, некаторыя архаічныя арфаграфічныя прыёмы і іншыя моўныя асаблівасці даюць падставу адносіць помнік да 1-й палавіны 16 ст. Твор вядомы таксама ў некалькіх рускіх спісах.

Кампазіцыйна твор складаецца з 8 частак, якія ў сваю чаргу дзеляцца на раздзелы («вароты»). Кожны раздзел прысвечаны адной якой-небудзь тэме — агульным нормам паводзін чалавека, адносінам палкаводца да сваіх падначаленых, апісанню спосабаў вядзення вайны, арганізацыі войска, прыёмам рацыянальнага харчавання, рэцэптам прыгатавання лякарстваў і г. д. Твор належыць да жанру навуковай літаратуры, і гэтым у значнай меры тлумачацца яго моўныя асаблівасці. Ён узнік у эпоху, калі царкоўнаславянскія граматычныя і лексічныя сродкі яшчэ займалі значнае месца ў мове беларускага пісьменства. Да найбольш яркіх царкоўнаславянскіх рыс у галіне граматычнага ладу адносяцца: частае ўжыванне канчатка *-аго* ў прыметніках мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне адзіночнага ліку *(главнаго, лепшаго, любимаго, малаго, тихаго)*, формы дзеясловаў 2-й асобы цяперашняга часу з канчаткам *-ши (будеши, имаеши, накажеши, разумееши, речеши)*, формы дзеепрыметнікаў з фармантам *-щ- (любящій, пловущій, ростущій, седящій, цветущій)* і нават формы аорыста *(быхъ, видехъ, обретохъ, хотехъ)*. Царкоўнаславянскіх рыс шмат таксама і ў лексіцы. Напрыклад, у помніку ў амаль аднолькавай ступені выкарыстоўваюцца царкоўнаславянскія няпоўнагалосныя і беларускія поўнагалосныя варыянты: *власъ — волосъ, глава — голова, гладъ — голодъ, градъ — городъ, здравие — здоровье, злато — золото, краткій — короткій, млеко — молоко, средній — середній, страна — сторона* і інш.

Навуковым характарам помніка абумоўлена шырокае выкарыстанне слоў кніжнага стылю. Тут найперш выдзяляецца вялікі разрад аддзеяслоўных назоўнікаў абстрактнага зместу на *-ніе* тыпу *владеніе, говореніе, поведеніе, покушеніе, прироженіе, смышленіе, хотеніе* і г. д. Прыкметную кніжную афарбоўку надаюць тэксту таксама складаныя назоўнікі: *доброволіе, долгоседеніе, жестосердіе, звездочетникъ, злонравіе, злопомненіе* і інш. З гэтымі назоўнікамі суадносяцца і шматлікія складаныя прыметнікі тыпу *глубокодумный, легкоумный, малозрачный, многомясный, мягкосердый, остроумный, правоверный, скулобородый.* Многія з такіх слоў наогул не фіксуюцца іншымі старабеларускімі пісьмовымі помнікамі.

У адносінах слоўнікавага складу помнік вылучаецца тым, што ў ім адлюстраваны некаторыя прадметна-тэматычныя разрады лексікі з адносна поўным пералікам адпаведных назваў. У адной частцы твора падкрэсліваецца, што чалавек па сутнасці мае ўсе тыя якасці, якія добра выяўляюцца ў жывёл, птушак і насякомых: *несть того обычая во каждом живом, что бы не было в человецех; храбръ яко левъ; боязнивъ яко заець, щедръ яко куръ; скупъ яко песъ, гневливъ какъ воронъ, бегаеть людей как рысь; приставаеть к ним яко голубъ, збойливъ яко лисица, простъ яко овца, борздъ яко елень, а мешкаеть яко медведь, лепъ яко слонъ, уничижается яко оселъ* і інш.

У помніку многа ўвагі аддаецца прыгатаванню розных лякарстваў, пры гэтым робяцца спасылкі на славутых старажытных медыкаў Авіцэну, Галена і Гіпакрата. Тут называюцца харчовыя прадукты, расліны і плады, якія рэкамендуецца выкарыстоўваць для гэтых мэт: *бобъ, вино, гвоздика, горохъ, горчица, желтокъ, капуста, лобода, лой, макъ, масло, медъ, молоко, морковъ, олива, орехъ, репа, семя, слива, смоква, соль, сочевица, сыръ, тукъ, чеснокъ, яблоко, яйце* і шмат іншых. Ніводзін іншы помнік старабеларускага пісьменства не змяшчае такога поўнага пераліку гэтых рэчаў.

Значнае месца ў помніку адведзена фізіягноміцы — вучэнню пра вызначэнне характару і якасцей чалавека па рысах твару і форме цела, напрыклад: *о власех. Власы грубые*

*указаніе на крепость мозгову сердечную, и влас мяккый указуеть мягко сердцо і стюдень мозгову, и малоумие. и множество влас на плечех и на шии указуеть на скотство и глупостенъ. а также мнози власы на сердцы и на чреве указуеть прироженіе скотьское. и малолюбіе до правды, а многолюбіе до кривды.*

У гэтай частцы твора шмат анатамічных назваў: *бровъ, власы, глава, губа, длань, животъ, нога, ноздри, око, пета, плече, сердце, тело, ухо, чело, челюсть, чрево, шия* і інш. Наяўнасць такіх тэматычных разрадаў робіць помнік надзвычай каштоўнай крыніцай для вывучэння слоўнікавага складу беларускай мовы 16 ст.

Асаблівасцю стылістыкі помніка з'яўляецца неаднолькавае выкарыстанне дзеяслоўных форм. Павучальна-загадны выклад абумоўлівае частае выкарыстанне форм загаднага ладу тыпу *борони, ведай, верь, возми, давай, напиши, повесь, положи, пошли, пытай, разумей, стережися.* У такім жа значэнні ўжываюцца і формы будучага часу, якімі прадпісваецца абавязковасць выканання дзеяння: *низведешь, посмотришь, уведаешь, увидишь.* Формы прошлага часу тут ужываюцца зусім рэдка, паколькі апавяданне аб мінулых падзеях не выклікалася кантэкстам твора.

Беларускі рукапіс цяпер захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Помнік выдадзены з разначытаннямі па іншых спісах М. Н. Спяранскім у даследаванні «З гісторыі адлучаных кніг. IV. Арыстоцелевы вароты або Тайная тайных» (Спб., 1908. С. 131—241). Мова помніка даследавана Я. Ф. Карскім у працы «Да гісторыі гукаў і форм беларускай мовы» (Русский филологический вестник. 1892. Т. 28, № 4).

*А. І. Жураўскі.*

## АРЭАЛЬНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ МОЎ

Арэальная класіфікацыя моў — адна з прынятых у сучасным моваэнаўстве класіфікацый моў свету, разам з генеалагічнай, тыпалагічнай і сацыяльна-функцыянальнай класіфікацыямі (гл. **Генеалагічная класіфікацыя моў, Тыпалагічная класіфікацыя моў, Сацыяльна-функцыянальная, або сацыялагічная класіфікацыя моў).** Арэальная класіфікацыя памагае ўсебаковаму разгляду моўных сістэм з мэтай пабудовы лінгвістычнай карты свету, прасочвання працэсаў канвергенцыі (збліжэння) і дывергенцыі (разыходжання) моў, дакладнага і больш поўнага пазнання гісторыі моў і народаў.

Адным з асноўных паняццяў арэальнай класіфікацыі моў з'яўляюцца моўны саюз — асобны тып моўнай супольнасці, які характарызуецца пэўнай колькасцю структурных і матэрыяльных прыкмет, набытых рознымі мовамі ў выніку працяглых і інтэнсіўных кантактаў у межах адзінай геаграфічнай прасторы, напрыклад, балтыйска-славянскі на беларуска-літоўска-латышскім пагранічы, балканскі і іншыя моўныя саюзы. У кожны з гэтых саюзаў уваходзяць мовы, розныя па паходжанні. Аднак блізкае суседства, моўныя кантакты прыводзяць да таго, што на розных моўных узроўнях ва ўсіх мовах такога саюза ўзнікаюць агульныя рысы. Так, у балгарскай, македонскай, албанскай, новагрэчаскай мовах, якія ўтвараюць балканскі моўны саюз, склаліся так званыя балканізмы. Агульныя рысы моў: падабенства ў рытміка-тактавай арганізацыі маўлення, экспіраторны націск, постпазіцыйны артыкль, аналітычнае ўтварэнне форм ступеняў параўнання, страта інфінітыва, ужыванне займеннікавых клітык і г. д. Гэтыя мовы аб'ядноўваюцца ў адзін саюз і шматлікімі лексічнымі адпаведнасцямі, якія ўзніклі ў выніку запазычання з грэчаскай, лацінскай, турэцкай і славянскіх моў.

Пры арэальнай класіфікацыі моў шырока выкарыстоўваюцца дасягненні арэальнай лінгвістыкі — раздзела мовазнаўства, які з дапамогай метадаў лінгвістычнай геаграфіі даследуе распаўсюджанне моўных з'яў у часе і прасторы і ў міжмоўным узаемадзеянні.

*Літ.:* Цыхун Г. А. Типологические проблемы балканского языкового ареала. Мн., 1981; Яго ж: О балтийско-славянском языковом союзе//Tarptautinė baltistu konferencja: Pranesimų tezės. Vilnius, 1985; Яго ж. Арэальная тыпалогія славянскіх моў: Прынцыпы і напрамкі даследавання. Мн., 1988. *П. П. Шуба.*

## АСНОЎНЫ МАСІЎ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

Асноўны масіў беларускіх гаворак — сукупнасць мясцовых гаворак пераважнай часткі тэрыторыі Беларусі. Не адносяцца да яго толькі мясцовыя гаворкі паўднёва-заходняй часткі рэспублікі. Мяжа асноўнага масіву беларускіх гаворак праходзіць тут прыблізна па лініі Пружаны — Бяроза — Лунінец — Столін. На паўднёвым захадзе ад яе гучаць мясцовыя гаворкі заходнепалескай дыялектнай групы, для якіх адметныя рысы беларускіх гаворак асноўнага масіву не характэрны. Гэта мяжа найбольш значная і прыкметная на дыялектнай прасторы рэспублікі. На стыку мясцовых гаворак яна крыху «размытая»: з абодвух бакоў назіраецца суіснаванне і ўзаемапранікненне суседніх гаворак, сродкі і асаблівасці якіх змешваюцца ў мясцовым маўленні.

Мясцовыя беларускія гаворкі асноўнага масіву характарызуюцца і аб'ядноўваюцца значнай колькасцю структурных адметнасцей. Найбольш істотнымі і яркімі з'яўляюцца фанетычныя асаблівасці. Гэта цвёрдыя і мяккія зычныя гукі перад галоснымі [е] і [ы (і)] *(сéсьці, клець, пéршы, сэ́рца, бэз, гэ́бель, зэ́длік, ліпа, лы́ка, віл́ы, вы́рай),* дзеканне і цеканне *(дзень, дзя́дзька, цецяру́к, цяля́),* зычны гук [ў] *(пра́ўда, жыў, воўк),* толькі цвёрдыя зычныя гукі [ж], [ш], [ч] *(жы́та, шэсць, печ),* цвёрды зычны гук [ц] *(цэ́лы, мéсяц),* пратэтычныя зычныя гукі [в] або радзей [г] перад галоснымі [о], [у] у пачатковым становішчы ў складзе *(вóсень, ву́ліца, паву́к),* нарэшце, аканне, недысімілятыўнае або дысімілятыўнае пасля мяккіх і цвёрдых зычных. Гэтыя фанетычныя асаблівасці ў сувязі з вялікай частотнасцю свайго выяўлення ў маўленчых сродках вызначаюць агульнасць мясцовых гаворак асноўнага масіву.

Характэрнымі і паказальнымі для гаворак асноўнага масіву з'яўляюцца таксама асабовыя займеннікі *ён, яна, яно, яны* з пачатковым зычным [й], указальныя займеннікі *гэ́ты* або *éты* з пачатковым зычным [г] або [й] і *той* або *тэй,* формы *мае́, твае́, свае́* прыналежных займеннікаў у родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду *(мае́ дачкí, твае́ сястры́, свае́ галавы́)* і формы *майгó, твайгó, свайгó* ў родным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду *(майгó бра́та, твайгó сы́на, свайгó чалавéка).* Канчатак *-у* або *-е* ў месным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду *(аб сы́ну, па бра́ту* або *аб сы́не, па бра́це),* чаргаванне [дзь] — [дж] у асабовых формах дзеясловаў *(ты хóдзіш, ён хóдзіць,* але *я хаджу́; ты сядзі́ш, ён сядзíць,* але *я сяджу́),* мяккі зычны [ц'] у формах 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку дзеясловаў *(ён рóбіць, хóдзіць, нóсіць* і *яны рóбяць, хóдзяць, нóсяць),* формы дзеясловаў у інфінітыве з асновай на галосныя з канцавым зычным [ц'] *(рабíць, сядзéць, быць, брáць, піса́ць)* і іншыя менш выразныя і значныя асаблівасці.

Асноўны масіў беларускіх гаворак утвараюць 2 тэрытарыяльныя адзінствы — паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты разам з так званымі пераходнымі (змешанымі) сярэднебеларускімі гаворкамі, якія знаходзяцца паміж імі. Кожнае з гэтых адзінстваў мясцовых гаворак мае і свае адметнасці.

Асаблівасці мясцовых гаворак асноўнага масіву, якія ўласцівы для ўсіх гаворак, разам з тым з'яўляюцца найбольш характэрнымі і важнымі структурнымі рысамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы, якая складвалася на аснове пэўных гаворак асноўнага масіву. У цеснай сувязі з гэтымі гаворкамі і пераважна за кошт іх сродкаў яна развівалася і развіваецца зараз. Стан гаворак асноўнага масіву істотна ўплывае таксама на вызначэнне кірункаў сучаснага бе-

ларускага нацыянальнага моўнага развіцця ў сферы агульнанародных зносін.

Асноўны масіў беларускіх гаворак — найважнейшая частка сучаснай беларускай дыялектнай мовы. Адначасова ён з'яўляецца цэнтральнай часткай этнагістарычнай беларускай дыялектнай зоны. Гэта тэрытарыяльнае яднанне мясцовых усходнеславянскіх гаворак у межах так званай этнічнай тэрыторыі беларускага народа. Этнагістарычная беларуская дыялектная зона ўключае гаворкі асноўнага дыялектнага масіву Беларусі, а таксама суседнія з імі гаворкі за межамі рэспублікі, якія маюць такія ж асаблівасці, што і асноўны беларускі дыялектны масіў. Гэта як бы яго працяг. Дадзеныя гаворкі з'яўляюцца зараз гістарычнай перыферыяй асноўнага масіву беларускіх гаворак як паводле свайго становішча, так і паводле пасіўнай ролі ў беларускім нацыянальным моватворчым працэсе.

Пра лінгвістычны статус мясцовых гаворак усходнеславянскіх народаў (плямён), іх сувязі і адносіны пачалі разважаць у навуковых колах і ў друку ўжо з сярэдзіны 19 стагоддзя. Гэта было абумоўлена разгортваннем у гэты час вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры і побыту народаў Расійскай імперыі і найперш усходніх славян — рускіх, украінцаў і беларусаў (ці велікаросаў, маларосаў і беларусінаў, як тады пераважна гаварылі). У тыя часы адносна гэтага ўзніклі самыя розныя выказванні, дзіўныя і нават фантастычныя з пункту погляду сучаснага адукаванага чалавека. Так, мясцовыя гаворкі беларусаў адны лічылі часткай паўднёвавелікарускага «наречия» (І. Сразнеўскі, А. Патабня), другія называлі іх дыялектам украінскай мовы (А. Аганоўскі), трэція — дыялектам польскай мовы (С. Ліндэ). Даводзілася нават, што мова беларусаў з'яўляецца наогул не славянскай (І. К. Адэлунг). Тлумачыцца гэта адсутнасцю ў той час ведаў пра мясцовыя гаворкі рускага, украінскага і беларускага народаў.

Упершыню этнагістарычная беларуская дыялектная зона была акрэслена адным з заснавальнікаў беларускага мовазнаўства Я. Ф. Карскім. На падставе сваіх шматгадовых даследа-




Падрыхтаваў А. А. Крывіцкі

Да арт. **Асноўны масіў гаворак.**

ванняў і спецыяльных навуковых падарожжаў, звестак і паведамленняў пра асаблівасці мясцовых гаворак, атрыманых з розных мясцін, аналізу запісаў фальклору, у якіх адлюстроўвалася мясцовае маўленне, нешматлікіх на той час спецыяльных прац іншых даследчыкаў аб мясцовым маўленні Я. Ф. Карскі склаў «Этнаграфічную карту беларускага племя. Беларускія гаворкі» (1903). На гэтай карце ён зрабіў спробу паказаць фактычныя межы этнагістарычнай беларускай дыялектнай зоны, раскрыць групоўку гаворак унутры яе і адлюстраваць сувязі гэтых гаворак з суседнімі рускай, украінскай і польскай мовамі. Праўда, Я. Ф. Карскі добра разумеў умоўнасць вызначанай ім мяжы беларускіх гаворак (беларускага «наречия», паводле тэрміналогіі таго часу). Для больш дакладнага яе вызначэння не ставала матэрыялаў. Я. Ф. Карскі праводзіў такую мяжу, выкарыстаўшы звесткі пра геаграфію толькі некаторых моўных асаблівасцей (дзекання і цекання, акання, цвёрдасці і мяккасці зычных перад галоснымі [е] і [і] і інш.). Ацэньваючы сваю працу над картай, ён пісаў, што для вызначэння мяжы беларускіх гаворак «лепш было б даць не адну лінгвістычную карту, а некалькі, напрыклад, па колькасці рысаў беларускага маўлення». Інакш кажучы, стварыць атлас лінгвістычных карт, прысвечаных геаграфіі кожнай асаблівасці беларускіх гаворак асобна, і супаставіць гэтыя карты.

Блізкім да карты беларускіх гаворак Я. Ф. Карскага было вызначэнне зоны беларускай мовы Маскоўскай дыялекталагічнай камісіяй (МДК). Гэта навуковая арганізацыя моваведаў дарэвалюцыйнай Расіі каля 10 гадоў займалася вывучэннем мясцовых гаворак рускага, украінскага і беларускага народаў (якіх аб'ядноўвалі тады пад агульным паняццем «руская») на еўрапейскай тэрыторыі. Праца МДК завяршылася выданнем «Дыялекталагічнай карты рускай мовы ў Еўропе» (1914; складальнікі М. М. Дурнаво, М. М. Сакалоў, Дз. М. Ушакоў). На гэтай карце паказана пашырэнне і размежаванне рускага, украінскага і беларускага «наречий», а таксама ўнутраная групоўка іх гаворак і адносіны на сумежжах. Пры складанні данай карты ўлічваліся многія асаблівасці мясцовых гаворак рускіх, украінцаў і беларусаў. Складальнікі карты выразна бачылі і ўсведамлялі, што паміж мясцовымі гаворкамі рускага, украінскага і беларускага народаў рэзкіх межаў не існуе. У сувязі з гэтым МДК была ўведзена катэгорыя так званых пераходных гаворак. Гэта гаворкі на сумежжах рускай, украінскай і беларускай дыялектных зон. Але і гэта дыялекталагічная карта па моўных і дыялектных межах была ўмоўнай, што было адзначана ў дадзенай да карты кнізе.

Межамі ўсходнеславянскіх моў і іх гаворак займаліся многія мовазнаўцы і пазней (Е. Раманаў, У. Дабравольскі, П. Растаргуеў, В. Ганцоў, І. Зялінскі, Л. Асоўскі, Ю. Тарнацкі, Я. Станкевіч і інш.). Але прынцыпова новай па гэтай праблеме была праца П. А. Бузука. Для высвятлення таго, як суадносяцца тэрытарыяльна беларускія гаворкі з гаворкамі рускай і ўкраінскай моў (а таксама і беларускія дыялекты) П. А. Бузук вырашыў сабраць звесткі і скласці карты на пашырэнне вядомых беларускіх дыялектных з'яў. Гэта была вялікая і арыгінальная навуковая задума па стварэнні мнагаслойнай, аб'ёмнай панарамы беларускіх гаворак. П. А. Бузук падрыхтаваў толькі першы выпуск працы «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі» (1928). У яго ўключаны карты пашырэння фанетычных і марфалагічных з'яў у мясцовых гаворках усходняй часткі Беларусі і яе сумежжа з рускай і ўкраінскай мовамі.

«Цяпер мы ўжо з упэўненасцю можам сказаць,— пісаў ён у заключэнні да гэтага выпуска,— што граніцы моўных з'яў выбраную намі для даследавання тэрыторыю перарэзваюць у самых розных кірунках». Таму, лічыў вучоны, немагчыма дакладна вызначыць тэрыторыю пашырэння пэўнай тэрытарыяльнай еднасці мясцовых гаворак (мовы, дыялекта і інш.), правесці паміж гаворкамі падобных




Да арт. **Беларуская мова сярод іншых славянскіх моў.**




Аўтар Ф.Д.Клімчук

Да арт. **Заходнепалескія гаворкі.**

еднасцей рэзкую мяжу. Але гэта не азначае, што такія еднасці не існуюць. «Граніцы моўных з'яў не супадаюць, але ёсць, аднак, пэўная раўналеглласць паміж некаторымі з іх». Частка гэтых «граніц» моўных з'яў (ізаглос) праходзіць блізка адна каля адной, утвараючы як бы «пучок ліній, якія маюць аднолькавы кірунак». Гэта і ёсць мяжа той ці іншай мовы ці дыялекта. Але для таго, каб «хоць прыблізна акрэсліць дыялектныя карты Беларусі і іншых славянскіх моў», патрэбны фундаментальныя лінгвагеаграфічныя даследаванні «і галоўных і другасных з'яў».

Падобныя лінгвагеаграфічныя даследаванні мясцовых гаворак славянскіх моў разгарнуліся ў пасляваенныя гады. У адпаведнасці з агульным праектам лінгвагеаграфічнага вывучэння мясцовых гаворак рускай, украінскай і беларускай моў у еўрапейскай частцы СССР (прапанова Р. І. Аванесава) створаны і апублікаваны «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), падрыхтаваны і выдаюцца атласы рускай і ўкраінскай моў (гл. **Лінгвагеаграфія**). З улікам гэтых і іншых матэрыялаў па ўсходнеславянскай лінгвагеаграфіі ў пасляваенныя гады вывучаліся і пытанні тэрытарыяльных узаемаадносін мясцовых гаворак рускай, украінскай і беларускай моў (Р. Аванесаў, В. Арлова, В. Брамлей, Ф. Філін, Ф. Жылко, Т. Назарава, Г. Хабургаеў і інш.). Зараз яшчэ немагчыма дастаткова абгрунтавана ў навуковых адносінах акрэсліць этнагістарычную беларускую дыялектную зону. Але калі грунтавацца на існуючых навуковых працах і крыніцах звестак пра асаблі-




Падрыхтавалі А.С.Аксамітаў, Ф.Д.Клімчук

Да арт. **Даленга-Хадакоўскі Зарыян.**

васці мясцовых гаворак у межах суседніх моў і вызначэнні іх моўнай прыналежнасці, то гэта перыферыя з'яўляецца даволі значнай. На захадзе гэта група гаворак Беласточчыны ў Польшчы на мяжы з Беларуссю, якія фактычна з'яўляюцца працягам сумежных з імі гаворак заходняй часткі асноўнага масіву беларускіх гаворак (захад Гродзенскай вобласці). Да этнагістарычнай беларускай дыялектнай перыферыі трэба адносіць таксама астраўныя мясцовыя гаворкі на ўсходзе Літвы (у Вільнюскім і іншых раёнах), вельмі блізкія да мясцовых беларускіх гаворак асноўнага масіву, што мяжуюць з імі. Асноўны масіў беларускіх гаворак мае прылеглую да яго этнагістарычную дыялектную перыферыю ў Расійскай Федэрацыі на паўночнай і ўсходняй мяжы Беларусі. Найбольш відавочная і значная яна на паўднёвым усходзе ад Беларусі (мясцовыя гаворкі заходняй часткі Смаленскай і Бранскай абласцей). Аднак тут беларуская этнагістарычная дыялектная перыферыя сумяшчаецца, пераплятаецца і перамешваецца з рускай. Такой перыферыяй асноўнага масіву беларускіх гаворак з'яўляюцца мясцовыя гаворкі і пагранічча Украіны з Беларуссю на поўначы Чарнігаўскай вобласці. Складанай з'яўляецца праблема беларуска-украінскай этнагістарычнай дыялектнай мяжы ва Усходнім Палессі (гл. карту «Асноўны масіў беларускіх гаворак»).

*Літ.:* А в а н е с о в Р. И. Вопросы образования русского языка в его говорах // Вестн. Московского ун-та. 1947. № 9; Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. T. 1. Wrocłow etc, 1980. T. 2. 1989; Б е в з е н к о С. П. Українська діалектологія. Київ. 1980; Б у з у к П. А. Спроба лінгвістычнае геаграфіі Беларусі. Ч. 1. Фанетыка і марфалогія, вып. 1. Гаворкі цэнтральнае і ўсходняе Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Вялікарасіі ў першай чвэрці XX ст. Мн., 1928; Г н е д о в с к и й И. Несколько слов к вопросу об этнографической границе между литовским и белорусским населением в Ново-Александровском уезде Ковенской губернии // Памятная книжка Ковенской губернии на 1890 г. Ковно, 1889; Д о б р о в о л ь с к и й В. Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. 1. Спб., 1891; Д у р н о в о Н. Н., С о к о л о в Н. Н., У ш а к о в Д. Н. Опыт диалектологической карты русского языка в Европе с приложением очерка русской диалектологии//Рус. филол. вестник. М., 1915. Т. 34, № 4; Ж и л к о Ф. Т. Говори української мови. Київ, 1958; З а х а р о в а К. Ф., О р л о в а В. Г. Диалектное членение русского языка. М., 1970; К а р с к и й Е. Ф. Белорусы. Т. 1. Введение в изучение языка и народной словесности. Варшава, 1903; Я г о ж. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962; Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1968—69; Н а з а р о в а Т. В. Украинско-белорусская языковая граница в районе Нижней Припяти//Вопросы диалектологии восточнославянских языков. М., 1964; О р л о в а В. Г. Русско-белорусские языковые отношения по данным диалектологических атласов // Материалы и исследования по русской диалектологии. Н. С. М., 1961. Вып. 2; O s s o w s k i L. Zagadnienie językowe Polesia. Warszawa; 1936; Р а м а н а ў Е. Гаворкі Магілёўскае губерні//Запіскі аддз. гуманіт. навук. Працы класа філалогіі.




Аўтар А.А.Крывіцкі

Да арт. **Дыялектная мова**

Мн., 1928. Т. 1, кн. 2; Расторгуев П. А. Говоры на территории Смоленщины. М., 1960; Яго ж. Северско-белорусский говор: Исслед. в области диалектологии и истории белорусских говоров. Л., 1927; Русская диалектология. М., 1964; Семёнова М. Ф. Славяно-латышские этнолингвистические отношения // Уч. зап. (Даугавпилский гос. пед. ин-т). Сер. филол. 1964. Т. 10, вып. 6; Stankiewicz J. Stan badań nad klasyfikacja dialektów białoruskich—Balticoslavica. Warszawa, 1936; Tarnacki J. Podział językowy Polesia na podstawie faktów leksykalnych... Warszawa, 1936; Филин Ф. П. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. Историко-диалектологический очерк. Л., 1972.

*А. А. Крывіцкі.*

## АСОЎСКІ ЛЕШАК

Польскі славіст, адзін з пачынальнікаў навуковага вывучэння беларускай мовы за мяжой Л. Асоўскі нарадзіўся 1 красавіка 1905 г. ў Варшаве. Дзяцінства яго прайшло на Случчыне. Некаторы час вучыўся ў Слуцкай гімназіі. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Пазнанскім універсітэце, а потым у Ягелонскім, дзе ў 1932 г. напісаў і абараніў магістарскую работу і кандыдацкую дысертацыю. У 1932—34 гг. як навуковы стыпендыят праходзіў падрыхтоўку ў Сафійскім універсітэце. Чытаў лекцыі па беларускай мове ў Ягелонскім універсітэце (1934), па беларускай і балгарскай мовах ва універсітэце ў Львове (1935—39). У 1939—41 гг. дацэнт кафедры славянскай філалогіі Львоўскага універсітэта. З 1945 г. выкладаў у Ягелонскім універсітэце, дзе ў тым жа годзе абараніў доктарскую дысертацыю ў галіне ўсходнеславянскай філалогіі. З 1946 г.— загадчык кафедры рускай мовы Вроцлаўскага універсітэта. У 1964 г. Л. Асоўскаму прысвоена званне прафесара і ён прызначаны загадчыкам кафедры рускай філалогіі Пазнанскага універсітэта імя А. Міцкевіча, дзе працаваў да 1975 г.

Пачатак навуковай дзейнасці Л. Асоўскага прыпадае на канец 1920 — пачатак 1930-х гадоў. Пад уплывам праф. Э. Кліха, К. Ніча, І. Зялінскага ён заняўся вывучэннем гаворак на тэрыторыі Заходняй Беларусі. У выніку дыялекталагічных экспедыцый былі сабраны шматлікія каштоўныя звесткі, якія ляглі ў аснову шэрага артыкулаў. Дыялекталагічныя публікацыі Л. Асоўскага дазволілі працягнуць і на заходнебеларускую тэрыторыю ізаглосы, праведзеныя П. Бузуком для цэнтральнай і ўсходняй часткі БССР.

Палескія гаворкі сталі тэмай даследаванняў на працягу ўсяго жыцця вучонага. У пэўнай ступені на гэта паўплывалі выхад з друку кнігі К. Машынскага і асабістае знаёмства з ім. У сваіх публікацыях Л. Асоўскі пераканаўча паказаў, што беларуска-ўкраінская моўная мяжа, якая праходзіць па Палессі, не пастаянная, а рухомая, у выніку чаго існуе зона пераходных гаворак ад беларускіх да ўкраінскіх. Гэта падштурхнула вучонага да высвятлення некаторых пытанняў гістарычнай дыялекталогіі Палесся. Акрамя таго, Л. Асоўскі праяўляў значную цікавасць да палескай анамастыкі і спецыфічнай палескай лексікі. Такое ўважлівае даследаванне гэтага рэгіёна дазволіла знайсці новыя аргументы ў падтрымку гіпотэзы аб заходнепалескай лакалізацыі прарадзімы славян.

Значную навуковую каштоўнасць маюць працы Л. Асоўскага пра ўплыў польскай мовы на беларускія гаворкі. У іх аналізуюцца не толькі лексічныя паланізмы, наяўнасць якіх зусім натуральная ў сувязі з даўнім суіснаваннем дзвюх моў, але таксама граматычныя і словаўтваральныя.

Вялікую ўвагу аддаваў вучоны і пасобным тэарэтычным пытанням беларусістыкі. Так, займаючыся з'явай цекання-дзекання ў беларускай мове, ён прыйшоў да высновы, што гэта адна з найбольш яркіх яе рыс з'явілася толькі ў 16 ст. Старажытныя адносіны паміж украінскімі і беларускімі гаворкамі Л. Асоўскі разгледзеў на прыкладзе рэфлексаў праславянскіх спалучэнняў тыпу *tort, *tolt.

Як вучоны-славіст ён працаваў і над пытаннямі параўнальнай граматыкі славянскіх моў. У пасляваенны час паралельна з беларусістыкай шмат увагі надаваў даследаванню марфалогіі і акцэнтуацыі рускай мовы. Зацікавіўшыся рускім націскам, вучоны пашырыў свае даследаванні на славянскую і балта-славянскую акцэнтуацыю. Важнае значэнне ў лінгвістычнай навуцы маюць таксама работы Л. Асоўскага па польскай сацыялінгвістыцы і дыялекталогіі.

Усе працы, напісаныя і надрукаваныя вучоным па вышэйназванай праблематыцы ў 1931—78 гг., выдадзены ў Польшчы асобным зборнікам, які прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Лешака Асоўскага.

*Тв.:* Studia slawistyczne. Wrocław etc., 1992.

*Літ.:* Колесаў У. В., Пазухін Р. В. Беларусістыка і славістыка ў працах прафесара Лешка Асоўскага // Беларуская лінгвістыка. Мн., 1977. Вып. 11; Kuraszkiewicz W. Leszek Ossowski // Studia Rossica Posnaniensia. Poznań, 1979. Z. 10; Bartoszewicz A. O działalności naukowej Profesora Doktora Leszka Ossowskiego // Slavia Orientalis. 1980. T. 29, Nr 1/2.

*П. А. Міхайлаў.*

## АЎТАРСКІ СТЫЛЬ

Кожны сапраўдны пісьменнік пасвойму непаўторна карыстаецца мовай, валодае сваімі спосабамі і прыёмамі адкрываць мастацкую энергію слова, мае сваю манеру пісьма — індывідуальны аўтарскі стыль. Неад'емная рыса аўтарскага стылю — арыгінальнасць, самабытнасць. А гэтай якасці можа дасягнуць творца, які мае талент мастацкага бачання і паказу рэчаіснасці. Тое, як пісьменнік адчувае і ўспрымае навакольны свет, як яго асэнсоўвае і адлюстроўвае, знаходзіць выражэнне ў мастацка-моўнай структуры твора, у сістэме ўсіх яго лексічных, граматычных, тэкставых кампанентаў, у спосабах выяўлення аўтарскай ацэнкі — у індывідуальным аўтарскім стылі. Немалаважную ролю адыгрывае светапогляд пісьменніка, яго адносіны да літаратурнага працэсу, да мастацкіх традыцый, погляд на шляхі развіцця мовы (напрыклад, як ставіцца да выкарыстання дыялектызмаў, запазычанняў), разуменне моўнага майстэрства.

Аўтарская індывідуальнасць кладзе адбітак на ўсе элементы мовы твора. Але ў пейзажы, апісанні прыроды майстэрства пісьменніка выступае найбольш яскрава. Напрыклад:

*Адшумелі свой час неспакойныя восеньскія вятры. Нізкія, разарваныя ветрам мітуслівыя хмары выплакалі халодныя слёзы.*

*Кароткія, змрочныя дні наводзілі паныласць і смутак, прыгняталі добры настрой і адчуванне. Быў той час, калі людзі прасілі: «Прыходзіла б ужо зіма. Няхай бы падсушылі марозікі зямлю, каб яна не тапілася ў гразі і ў балоце».*

*І вось у адзін дзень бязладныя, неспакойныя хмары, нібы спалоханыя птушкі, падняліся вышэй, зрабіліся болей тугімі. Падзьмула з поўначы здаровым халадком. Зямля сушэла, пакрывалася цвёрдаю скарынкаю. А пад поўнач пасыпаў сняжок, заложны, спорны, густы і сухі. Снег ішоў усю ноч і ўвесь заўтрашні дзень. Пад вечар снег суняўся. На захадзе бліснула журботная, ласкавая ўсмешка сонца і патухла. У небе засвяціліся першыя зоркі. Прыціснуў мароз.*

Няцяжка пазнаць, што тэкст — Коласаў. Гэта пазнаванне грунтуецца на ранейшым літаратурна-мастацкім вопыце. Нам не раз даводзілася чытаць гэту выразную будовай і светлую яснасцю думкі прозу, прасякнутую цяплом і шчырасцю пісьменнікавага сэрца. Адметнасць стылю мы ўспрымаем перш за ўсё інтуітыўна, можа, не заўсёды ўмеючы знайсці і назваць моўна-стылёвыя рысы, якімі адрозніваецца той ці іншы твор. Калі ж мастацкі твор становіцца аб'ектам даследавання, то для вывучэння яго стылю праводзяць аналіз тэксту. Выявім некаторыя адзнакі коласаўскага стылю на аснове прыведзенага ўрыўка з трылогіі «На ростанях».

Для апісання позняй восені і пачатку зімы, якое мае на мэце не толькі акрэсліць час падзей, але і настрой галоўнага героя Лабановіча, пісьменнік карыстаецца моўнымі сродкамі,

традыцыйнымі ў літаратуры і ў штодзённых зносінах. Спалучэнне іх у мове па-мастацку абгрунтаванае. У выкананні эстэтычнай функцыі ўсе словы нясуць раўнамерную нагрузку — без лішняй вобразнасці адных слоў і мастацкай маламоцнасці другіх. Сказы першага і часткова другога абзацаў, якія малююць прыродныя з'явы ўвосень, маюць кніжны характар. Найболей гэта відаць у выразах (першы з іх — метафарычны): *хмары выплакалі халодныя слёзы, наводзіць паныласць і смутак, прыгняталі добры настрой і адчуванне.* Карціна перадзімовага стану прыроды, хоць тут і канстатуюцца змены ў надвор'і, успрымаецца як запаволеная, статычная. Такому паказу адпавядае інтанацыя пачатковых сказаў — эпічна-спакойная, размераная.

І зусім іншая рытміка-інтанацыйная арганізацыя мовы ў трэцім абзацы. Тут дзеянні — прыкметы змены надвор'я — падаюцца імкліва, што дасягаецца ўжываннем кароткіх сказаў з дзеясловамі-выказнікамі. У рэчышча такой рухомай, дынамічнай мовы ўцягваюцца нават адасобленыя азначэнні *(заложны, спорны, густы* і *сухі)*, якія звычайна запавольваюць моўную плынь. Гэтыя азначэнні гучаць расчленена, рытмічна, з інтанацыяй пералічэння, характэрнай для паслядоўных, зменных дзеянняў у папярэдніх сказах.

Атмасфера чакання зімы, настроенасць людзей на яе хутчэйшы прыход узмацнілі эмацыянальнасць мовы (трэці абзац). Доўга, пакутліва чакалі — і вось яна, зіма! Глядзіце, сустракайце, цешцеся! Здаровы, рэалістычны погляд на прыроду адбіўся ў гэтай замалёўцы. Станоўчая ацэнка выказана і назоўнікамі памяншальна-ласкальнай формы з прыметнікамі-эпітэтамі: *(падзьмуў) здаровы халадок, (пайшоў) сняжок, заложны, спорны, густы і сухі.*

Пераход ад умеркавана кніжнага выкладу да жывой натуральнай размовы ў Коласавым тэксце вельмі арганічны, незаўважны. Гэту стылёвую асаблівасць ілюструюць першыя два абзацы і ўвесь урывак. Кніжнае слова ў пісьменніка выконвае вялікую мастацкую ролю. Звернем яшчэ раз увагу на сказы: *Пад вечар снег суняўся. На захадзе **бліснула журботная, ласкавая ўсмешка сонца** і **патухла.** У небе засвяціліся першыя зоркі. Прыціснуў мароз.* Літаратурная метафара (у выдзеленых словах) дакладна перадае складанае, супярэчлівае, шчымлівае пачуццё ад назірання кароткага на захадзе сонца, добра ўпісваецца ў кантэкст.

Для коласаўскага стылю характэрны сінтаксічная няўскладненасць, разнастайнасць моўных сродкаў, дакладнасць слова і матываванасць яго стылістычнай афарбоўкі, багацце лексікі і фразеалогіі, дасканаласць апрацоўкі мовы, а ў выніку — лёгкапраглядnасць фразы, прыгажосць яе гучання. Гэтымі заўвагамі, зразумела, не вычэрпваецца сэнсава-эмацыянальны змест, мастацкія, эстэтычныя вартасці і адметнасць коласаўскай мовы. Кожны чытач убачыць, адчуе свае таямніцы, адкрые свае шляхі да глыбіняў Коласавага слова.

Своеасаблівасць аўтарскага стылю выяўляецца і ў мове персанажаў. Мова дзейных асоб звычайна імітуе гутарковую мову, жывую гаворку. У выдатнага пісьменніка мова герояў індывідуалізаваная, з'яўляецца сродкам іх характарыстыкі. Мележавы героі — «людзі на балоце» — карыстаюцца мясцовай палескай гаворкай (у творы яна не капіруецца), але кожны гаворыць па-свойму: Васіль Дзятлік, Ганна Чарнушка, Яўхім, стары Глушак, Сарока і інш. У гаворцы Сарокі, «вясёлай гамонцы з прымаўкамі», як піша аўтар, пульсуе моватворчасць, дасціпнасць жанчыны.

— *А сонца, бач ты, прыпякае! Высоко ж узлезло!*

— *Хто мяне выпер са двара ні свет ні зара! — пашкадавала Сарока.— Шчэ б магла і свінням зварыць, і тое-сёе другое зрабіць!*

— *Усяго не пераробіце, цётка Аўдоцця!*

— *Тое-сёе шчэ б ухапіла, чым тут тырчаць няміла!*

Аўтарскі стыль як індывідуальнае выкарыстанне пісьменнікам нацыянальнай мовы для стварэння мастацкай мадэлі рэчаіснасці, як адна з канкрэтных рэалізацый мастацкага стылю літаратурнай мовы мае адметнасць у творах розных жанраў. Напрыклад, стыль паэмы адрозніваецца ад стылю аповесці таго самага аўтара шматлікімі рысамі, абумоўленымі спецыфікай вершаванай мовы, характарам вобразнасці, роляю гукапісу, рытмікі і г. д.

Ёсць падставы гаварыць пра аўтарскі стыль не толькі ў мастацкай літаратуры, але і ў іншых сферах ужывання мовы. Так, некаторыя жанры публіцыстычна-прамоўніцкага і навуковага стыляў дапускаюць у большай ці меншай ступені аўтарскую манеру выкладу. Выразны адбітак аўтарства нясуць публіцыстычныя артыкулы Я. Коласа, К. Чорнага, нарысы Я. Брыля, Я. Сіпакова, філалагічныя працы У. Калесніка, Р. Шкрабы, Ф. Янкоўскага, А. Клышкі і інш.

*Літ.:* Стыль пісьменніка. Мн., 1974; Каўрус А. З крыніц народнай мовы. Мн., 1968.

*А. А. Каўрус.*

## АФАРЫЗМЫ

Старажытныя грэкі вельмі паважалі ўрача, рэфарматара тагачаснай медыцыны, філосафа-матэрыяліста Гіпакрата (5—4 ст. да н. э.). З яго імем звязваюць уяўленне пра найвышэйшую маральную годнасць урача. Нездарма менавіта Гіпакрату прыпісваюць тэкст вядомай клятвы — клятвы Гіпакрата, якую і сёння даюць студэнты-медыкі пры заканчэнні інстытута. Працы Гіпакрата высока цаніліся, а яго азначэнні розных з'яў і прадметаў лічыліся ўзорнымі. Пагрэчаску азначэнне — aphorismás. Вось адкуль бярэ пачатак наш філалагічны тэрмін «афарызм».

Сёння пад афарызмам мы разумеем выказванне, якое перадае лагічна закончаную думку (суджэнне) — жыццёвае назіранне, заклік, маральную сентэнцыю, параду, развažанне і г. д., выражаную абавязкова ў яскравай, трапнай і лаканічнай слоўнай форме. Напрыклад: *Свабода і прагрэс — вось мэта мастацтва, як і ўсяго жыцця* (Л. ван Бетховен); *Ні адна армія не зможа перамагчы ідэю, час якой прыспеў* (В. Гюго); *Не шукай ты шчасця, долі на чужым далёкім полі* (Я. Купала); *Зусім не хістаюцца слупы, асаблівa — глыбока ўкапаныя* (Я. Брыль); *Не выхваляйся дабрынёю, рабі дабро ты моўчкі лепш* (П. Броўка); *Вечна тваім застанецца толькі тое, што ты аддаў* (У. Караткевіч); *Над намі словы уладараць* (С. Грахоўскі); *Многа ёсць недасягнутых скарбаў, яшчэ болей прываблівых мар* (Л. Геніюш). «З акіяна чалавечай мудрасці як бы адкрываюцца грабеньчыкі самых высокіх хваляў — самых мудрых, самых глыбокіх думак — гэта і ёсць афарызмы»,— пісаў даследчык такіх выслоўяў М. Т. Федарэнка.

Афарызмы трэба адрозніваць ад блізкіх да іх слоўных форм выражэння чалавечай назіральнасці і дасціпнасці (гл. **Выслоўі**). Найперш ад прыказак, якія ў адрозненне ад афарызмаў не маюць канкрэтнага аўтара або шырокавядомай крыніцы (эпічнага твора, рэлігійнага помніка і пад.), параўн.: *З іголкі долата не зробіш; Не вялік мураш, ды горы варочае.* Не супадаюць і паняцці «афарызмы» і «крылатыя словы». Па-першае, крылатыя словы звычайна больш шырока ўжываюцца, а па-другое, у іх склад уваходзяць не толькі закончаныя думкі-суджэнні, але і трапныя найменні, нярэдка аднаслоўныя: *Пан сахі і касы* (Я. Купала); *Свінтус-грандыёзус* (К. Крапіва); *Плюшкін* (М. Гогаль).

Існуюць літаратурныя творы, якія цалкам складаюцца з афарыстычных выказванняў. Як прыклад можна прыгадаць знакаміты будыйскі помнік «Дхамапада» («Сцяжына дабрачыннасці»), дзе ёсць такія радкі: *Адно карыснае слова, пачуўшы якое людзі спакайнеюць, лепей за тысячы прамоў, складзеных з бескарысных слоў;* або: *У таго, хто пачцівы і заўсёды паважае старых, узрастаюць чатыры дхамы: жыццё, прыгажосць, шчасце, сіла.*

Найчасцей жа афарызмы ўваходзяць у склад іншых твораў. Таму пераважная большасць афарызмаў — гэта ўрыўкі з мастацкіх, публіцыстыч-

ных, філасофскіх, навуковых сачыненняў. У адзінай пакуль што ў беларускай філалогіі кніжцы Ф. М. Янкоўскага «Крылатыя словы і афарызмы» (1960) сабраны трапныя выказванні беларускіх пісьменнікаў.

Стварэнне афарызмаў вымагае вялікай працы, ведаў, таленту, духоўнасці. Ёсць аўтары (Канфуцый, Марк Аўрэлій, Л. А. Сенека, Вальтэр, А. С. Грыбаедаў, М. Горкі, Я. Купала, Я. Колас, Я. Брыль і інш.), творам якіх уласціва афарыстычнасць мовы. Нават агульнавядомая думка пад іх пяром становіцца нечаканай, новай, прыцягвае ўвагу чытача. Відаць, кожны зведаў — і можа не адзін раз — хвіліну смутку, зноў і зноў перажываючы штосьці з мінулага ва ўспамінах. Цяжка такім пачуццём здзівіць сталага чалавека, але яно набывае незвычайную вастрыню, калі пра яго гаворыць мастак слова: *Жалобай думкі аб мінулым//Замітусяцца ў нас падчас* (Я. Купала). А хіба можна не звярнуць увагі на сітуацыю таксама звыклую, калі яна трапна і з гумарам перадаецца такімі словамі: *А ў час апошні развітання // Стаялі цмокі цалавання* (Я. Колас). Тут слова нават мацнейшае за думку. Як бачым, афарыстычнасць — гэта абавязковая садружнасць зместу і формы, думкі і слова, гэта мастацтва думкі-слова. Нездарма Вальтэр сказаў: *Цудоўная думка траціць усю сваю каштоўнасць, калі яна дрэнна выражана.*

Збіранне, вывучэнне і выданне афарызмаў беларускіх аўтараў — адна з наспелых, нават неадкладных задач нашай філалогіі. У творах беларускіх пісьменнікаў шмат афарыстычнага матэрыялу. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова ўважліва перачытаць хоць бы некалькі старонак Я. Купалы, К. Крапівы, Караткевіча, Панчанкі, М. Танка, Гілевіча. Незвычайна багатая і разнастайная афарыстыка Я. Коласа. Паэт любіў і цаніў афарызмы. Так, гаворачы аб рускіх класіках, ён адзначыў, што афарызмы Пушкіна, Крылова, Грыбаедава сталі неад'емнай часткай культуры чалавека. Пра афарызмы разважаюць і героі Я. Коласа: сябар Андрэя Лабановіча Янка Тукала, які прыдумваў афарызмы, калі на яго «наплывала афарызмавая хваля»; Сцёпка з аповесці «На прасторах жыцця», які слушна зазначыў: *Каб выказаць разумную думку, не трэба многа прыгожых і выкрутасістых слоў.*

Толькі ў першых чатырох тамах (з чатырнаццаці) збору твораў Я. Коласа налічваецца не менш за 500 выслоўяў, якія можна аднесці да афарызмаў. Вось некалькі прыкладаў афарыстычнай творчасці народнага пісьменніка: *Добра быць у дарозе, якую ты сам сабе выбіраеш!; Кожны народ мае свой гонар; Чалавек жыве дзеля дабра, для служэння праўдзе; Ёсць мова, зразумелая для ўсіх, і ёсць мова, даступная для нямногіх; Уісціе кожнага страху ляжыць наша няведанне, наша цемната.*

Трапнае, разумнае, дасціпнае слова заўсёды цанілася вельмі высока: *Кароткія думкі тым добрыя, што яны прымушаюць сур'ёзнага чытача самога думаць* (Л. М. Талстой); *Думкі і выслоўі ўпрыгожваюць душу падобна да таго, як кветкі ўпрыгожваюць пакой* (Э. Капіеў). Вуснамі Гарнака (з п'есы «Забастоўшчыкі») Я. Колас так вызначыў сутнасць афарызма: *Гэта разумна выказаная думка, якая жыла ў галаве філосафа, а зараз будзе вісець на кручку мудрасці.*

*Літ.:* Жемчужины мысли. Мн., 1987; Казаченок Т. Г., Громыко И. Н. Античные афоризмы: Темат. сб. Мн., 1987; Федоренко Н. Т. Меткость слова: Афористика как жанр словесного искусства. М., 1975; Янкоўскі Ф. М. Крылатыя словы і афарызмы. Мн., 1960; Яго ж. Купалава афарыстычнае слова // Вобраз — 81: Літ.-крытыч. артыкулы. Мн., 1981; Яго ж. Слова пра афарызмы // Полымя. 1987. № 8; Міхневіч А. Я. Афарыстыка Якуба Коласа: (Да пастаноўкі праблемы) // Бел. лінгвістыка. Мн., 1983. Вып. 22.

*А. Я. Міхневіч.*

## АФІЦЫЙНА-ДЗЕЛАВЫ (АФІЦЫЙНА-СПРАВАВЫ) СТЫЛЬ

У штодзённым жыцці чалавек наладжвае афіцыйныя адносіны з іншымі людзьмі, з дзяржаўнымі ўстановамі. Гэтыя адносіны рэгулююцца прававымі нормамі, якія замацаваны ў законах, пастановах, правілах. Яшчэ ў школьныя гады мы карыстаемся рознымі дакументамі, пішам заяву, пратакол, справаздачу і іншыя дзелавыя паперы. Знаёмячыся з афіцыйнымі дакументамі, мы атрымліваем паняцце пра адну з разнавіднасцей літаратурнай мовы — афіцыйна-дзелавы стыль. Адзначым некаторыя яго рысы.

Калі ў мастацкім, публіцыстычным, навуковым тэксце выкарыстоўваюцца апавяданне, апісанне і разважанне, дык у афіцыйных дакументах выклад ідзе ў стылі прадпісання, канстатацыі, сцверджання. Прадпісальны характар дакументаў выяўляецца ў сістэме моўных сродкаў.

Шырока ўжываюцца дзеясловы ў неазначальнай форме: *Павысіць эфектыўнасць мер па ахове прыроды. Шырэй укараняць малаадходныя і безадходныя тэхналагічныя працэсы. Развіваць камбінаваныя вытворчасці...*

Часта пры інфінітыве ўжываюцца словы *неабходна, трэба, абавязаны, забараняецца, мець права* і інш.: *Грамадзяне маюць права свабодна знаходзіцца ў лясах, збіраць дзікарослыя плады, арэхі, грыбы, ягады і да т. п.; Грамадзяне абавязаны выконваць правілы пажарнай бяспекі ў лясах, не дапускаць паломак і парубак дрэў і кустоў, пашкоджання лясных культур, засмечвання лясоў, разбурэння мурашнікаў, гняздоўяў птушак і да т. п.* (Лясны кодэкс).

Прадпісальнае значэнне заканадаўчых тэкстаў часта перадаецца дзеясловамі цяперашняга часу: *Участковая выбарчая камісія:* 1) ***складае*** *спісы выбаршчыкаў па ўчастку;* 2) ***праводзіць*** *азнаямленне выбаршчыкаў са спісам выбаршчыкаў,* ***прымае і разглядае*** *заявы аб няправільнасцях у спісе...* У гэтым тэксце словы *складае, праводзіць, прымае, разглядае* абазначаюць не дзеянні, што адбываюцца ў момант гутаркі пра іх (такое значэнне цяперашняга часу), а сталыя дзеянні, якія выбарчая камісія ўпаўнаважана, абавязана выконваць.

У пераважнай большасці дакументаў прававыя нормы, прадпісанні падаюцца не як выказаныя канкрэтным размоўцам, аўтарам, а ідуць ад асобы абагульненай, ад імя дзяржавы. Іншымі словамі, афіцыйна-дзелавому стылю ўласцівы неасабовы характар выказвання, таму дзеясловы звычайна не ўжываюцца ў форме першай асобы, за выключэннем загадаў, заяў, дакладных.

У пастановах вышэйшых органаў, у пратаколах, рэзалюцыях, характарыстыках выклад уяўляе сабой канстатацыю, сцверджанне. У асабістай справе лётчыка М. Ф. Гастэлы захоўваецца дакумент:

*Атэстацыя.*

*Актыўны ў грамадскай рабоце, сціплы; сярод таварышаў карыстаецца вялікім аўтарытэтам і любоўю; фізічна развіты добра. Вынослівы і працаздольны... Тэарэтычны курс засвоіў добра. У пытаннях матэрыяльнай часткі разбіраецца таксама добра, дапамагае тэхніку. Лятаць вельмі любіць. Да палётаў ставіцца прадумана і сур'ёзна. У паветры ўважлівы. Рашэнні прымае ўпэўнена, хутка, правільна. Тэхніка палёту добрая. Лятае смела і ўпэўнена, без залішняй зухаватасці. Заданні выконвае дакладна. Боязі няма.*

Аб'ектыўнасць — істотная прыкмета афіцыйна-дзелавога стылю. Яму супрацьпаказаны эмацыянальнасць, суб'ектыўная ацэначнасць і гутарковасць. Напрыклад, у гутарковай мове шырока ўжываюцца назоўнікі з ацэначнымі суфіксамі: *салдацік, старшынька, госцейкі, дзеткі, дачушка.* А ў афіцыйным ужытку дапускаюцца толькі стылістычна нейтральныя словы: *салдат, старшыня, госці, дзеці, дачка.* Характэрная рыса дзелавой мовы — асаблівая афіцыйнасць афарбоўкі. Гэта якасць падкрэсліваецца, напрыклад, тады, калі асоб жаночага полу абазначаюць па іх прафесіі назоўнікамі мужчынскага роду: *дырэктар Жызнеўская, студэнт Лагуцкая, урач Зелянкова.*

Дакумент адпавядае свайму прызначэнню, калі ён дакладны. Даклад-

насць заканадаўчага тэксту, якая не дапускае іншага вытлумачэння, забяспечваецца перш за ўсё ўжываннем спецыяльных тэрмінаў *(заяўнік, адказчык, кватэранаймальнік, абвінавачаны, пратакол, даведка, парадак дня, пастанова, рэзалюцыя)*, а таксама адназначных і нявобразных нетэрміналагічных слоў.

Афіцыйна-дзелавы стыль адметны вялікай колькасцю стандартных сродкаў — канцылярскіх штампаў. Штампы — гэта ўстойлівыя звароты, якія паўтараюцца пры апісанні аднолькавых сітуацый, абазначэнні пашыраных паняццяў: *дагаворныя бакі, даводжу да ведама, прыцягнуць да адказнасці, перадаць у адпаведныя інстанцыі, узяць на кантроль, за справаздачны перыяд* і інш. Вядома, для тэкстаў розных жанраў набор стандартаў неаднолькавы. Карыстанне ўстойлівымі выразамі палягчае зносіны ў прававой і адміністрацыйнай сферы. Але штампы, канцылярызмы, без патрэбы ўведзеныя ў гутарку ці ў мову газет, зніжаюць культуру вуснай і пісьмовай мовы. Адну такую сітуацыю трапна паказаў Я. Брыль:

*У паліклініцы.*

*— Здарова, Зойка, што тут робіш?*

*— Я па вапросу зубой.*

*Гэта не жартам: дзяўчына на кіруючай рабоце.*

А вось выпісаны Я. Скрыганом газетны сказ: *Калі ў вашай сям'і з'явіўся хворы на грып, дык неабходна ў першую чаргу прыняць меры для абмежавання яго кантактаў з іншымі членамі сям'і.* Пісьменнік прапанаваў такую рэдакцыю сказа: *Калі ў вашай сям'і паявіўся хворы на грып, трэба тут жа абмежаваць яго кантакты з сям'ёю.* Пазбавіўшыся канцылярызмаў, сказ стаў, кажучы словамі Я. Скрыгана, «нармальным, па-чалавечы свойскім, тутэйшым у добрым разуменні гэтага слова».

Законы, пастановы, дзелавыя паперы адыгрываюць вялікую ролю ў жыцці чалавека і грамадства. Шмат якія дакументы, што маюць найбольшую каштоўнасць, зберагаюцца і захоўваюцца. Дзякуючы сваёй інфармацыйнай значнасці і дакладнасці яны з'яўляюцца крыніцай пазнання мінулага. Напрыклад, вельмі мала мы ведалі пра асабістае жыццё паэта і народнага майстра Паўлюка Багрыма. За прагрэсіўныя вершы (з іх дайшоў да нас адзін — «Зайграй, зайграй, хлопча малы») і ўдзел у антыпрыгонніцкім бунце яго здалі ў рэкруты. Лічылася, што, адбыўшы тэрмін салдатчыны, Багрым дажываў свой век адзін. Але нядаўна выявіліся копіі чатырох дакументаў пра сям'ю Багрымаў, і сярод іх — перадшлюбны пратакол, правільней «Перадшлюбны экзамен, пры сведках учынены». З яго даведваемся імёны бацькоў паэта і яго жонкі, месца нараджэння, узрост і г. д.

Веданне афіцыйна-дзелавога стылю, уменне карыстацца ім неабходна кожнаму чалавеку, асабліва цяпер, калі народ усё больш далучаецца да ўдзелу ў дзяржаўным і палітычным жыцці краіны.

*Літ.:* Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1992.

*А. А. Каўрус.*

Б — Устаў 11 ст.

Б — Паўустаў 15 ст.

Б — Паўустаў 16 ст.

Б — Паўустаў 17 ст.

б — Скорапіс 15 ст.

Б — Скорапіс 16 ст.

Бб — Скорапіс 17 ст.

Бб — Ф.Скарыны 16 ст.

Бб — Статута ВКЛ 1588 г.

Бб — Друкаваная 17 ст.

Бб — Грамадзянская 18 ст.

*Магутнае слова, ты, роднае слова!*
*Са мной ты на яве і ў сне;*
*Душу мне затрэсла пагудкаю новай,*
*Ты песень наўчыла мяне.*
*Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!*
*Ты крыўды, няпраўды змагло;*
*Хоць гналі цябе, накладалі аковы,*
*Дый дарма: жывеш, як жыло!*

Янка Купала



*Б — другая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Б («букі»), утворанай графічным відазмяненнем В («ведзі»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай В («віта»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* б, б', *пры аглушэнні* п (бубенъ — *«буб'эн»*, губка — *«гупка»*, хлебъ— *«хл'эп»). Не мела лічбавага значэння, бо лічбавае значэнне «два», уласцівае грэка-візантыйскай «віце», перайшло на кірыліцкую літару В. У рукапісах 15—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скарапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваацца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў было яшчэ непаслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумныя звонкія выбухныя губныя зычныя гукі* б, б' (барва, бівень — *«б'ів'эн'»), а перад глухімі зычнымі і на канцы слоў — парны да* б *па звонкасці і глухасці гук* п (бабка — *«бапка»*, грыб — *«грып»*). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (БДУ). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «другі» (пункт «Б»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (5-ы «Б» клас).*

*А. М. Булыка.*

## БАГДАНОВІЧ АНАТОЛЬ ВАСІЛЕВІЧ

Беларускі мовазнавец А. В. Багдановіч нарадзіўся 28 жніўня 1888 г. ў в. Луначарскае Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і святара. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю (1909), гісторыка-філалагічны факультэт Варшаўскага універсітэта (1913). Настаўнічаў. У лютым 1926 г. назначаны дацэнтам кафедры беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта. Адначасова ў Інбелкульце Багдановіч выконваў абавязкі сакратара дзвюх камісій — беларускай літаратурнай мовы і правапіснай. У пачатку 30-х гадоў, калі пачаліся ганенні на інтэлігенцыю, быў звольнены з працы і выкладаў беларускую мову толькі ў камвну. Не маючы магчымасці для выяўлення сваіх здольнасцей і жывучы пад пагрозай арышту, у 1934 г. пакінуў Беларусь. Працаваў у Астраханскім, Магнітагорскім, Краснадарскім, Херсонскім пэдінстытутах. Памёр 2 жніўня 1969 года.

У 1925 г. А. В. Багдановіч выступіў на старонках часопіса «Полымя» (№ 7) з артыкулам «Аб неўстаноўленых выпадках нашага правапісу», дзе абгрунтаваў свае прапановы наконт ужывання на пісьме *ў* і *й*, перадачы некаторых галосных і зычных у складаных і запазычаных словах. Пытанням правапісу прысвечана і яго брашура «Увагі да праекту аб рэформе правапісу» (1926), дзе абгрунтавана неабходнасць выкарыстання на пісьме марфалагічнага прынцыпу пры перадачы зычных гукаў і пераважна фанетычнага — пры перадачы галосных: на месцы ненаціскнога *о* пасля цвёрдых зычных пісаць *а*, у тым ліку і ў словах іншамоўных, а ненаціскныя галосныя сярэдняга і ніжняга пад'ёму ў першым складзе перад націскам пасля мяккіх зычных перадаваць праз *я*, ва ўсіх жа іншых ненаціскных складах — праз *е*.

У 1927 г. выйшаў падручнік А. В. Багдановіча «Беларуская мова», прызначаны для тэхнікумаў і самаадукацыі. Ад іншых тагачасных падручнікаў (практычных граматык) ён істотна адрозніваўся як зместам, так і будовай. Гэта своеасаблівы тэарэтычны курс беларускай мовы з элементамі яе гісторыі, параўнальнага і агульнага мовазнаўства. Агульнаму мовазнаўству прысвечана ўся першая частка падручніка — «Уводзіны». Яна складаецца з трох раздзелаў: «Папярэднія звесткі аб мове», «Фізіялогія гукаў мовы», «Сем'і і тыпы моў». У апошнім раздзеле «Уводзін» пасля разгляду жывых і мёртвых моў аўтар робіць лагічны пераход да беларускай, уключыўшы такія параграфы, як «Славянская галіна і месца беларускай мовы ў яе коле», «Этнаграфічныя межы беларускай мовы і яе падмовы і гаворкі», «Літаратурная беларуская мова і яе адносіны да паасобных дыялектаў». Другая частка падручніка складаецца з 6 раздзелаў. У першым прасочваецца працэс складвання і паступовага развіцця беларускай мовы ад старажытнасці да 1917 года, характарызуецца лёс і становішча яе ў розныя гістарычныя перыяды; у другім раздзеле паказваецца, якую ролю ў культурным і грамадскім жыцці народа пачала адыгрываць беларуская мова пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі стала дзяржаўнай, гаворыцца аб літаратурнай апрацоўцы яе пісьменнікамі і вучонымі. Апошнія чатыры раздзелы прысвечаны фанетыцы, марфалогіі, сінтаксісу і правапісу. Аўтар разглядае канкрэтныя факты сучаснай беларускай мовы ў супастаўленні з аналагічнымі фактамі рускай, украінскай, а часам і іншых славянскіх моў, часта прыводзіць даведкі гістарычнага характару. З шырокім выкарыстаннем звестак па агульным мовазнаўстве і гісторыі беларускай мовы напісаны раздзел аб правапісе.

Па прапанове Галоўпалітасветы БССР А. В. Багдановіч напісаў «Самавучыцель па беларускай мове», які, аднак, чамусьці не быў выдадзены (рукапіс захоўваецца ў бібліятэцы АН Беларусі). У аўтарскай прадмове да «Самавучыцеля», датаванай 14 студзеня 1927 г., сказана, што ён прызначаецца «для асоб, якія добра ўладаюць расійскай мовай і знаёмы з яе граматыкай». У ім коратка, без раскрыцця сутнасці і навуковага тлума-

чэння, падаюцца найбольш характэрныя рысы беларускай мовы ў параўнанні з адпаведнымі рускімі, акцэнтуецца ўвага чытача на адрозненні тых і другіх, рэкамендуюцца разнастайныя практыкаванні для самастойнага выканання. Складаецца «Самавучыцель» з 3 раздзелаў: «Гукі беларускай мовы», «Слоўныя формы ў беларускай мове», «Злучэнні слоў у беларускай мове».

Як сакратар правапіснай камісіі А. В. Багдановіч прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы праектаў беларускага правапісу 1930 і 1933 гадоў. У рукапісе аўтабіяграфічных нататкаў (бібліятэка АН Беларусі) вучоны паведамляе яшчэ пра 2 навуковыя працы, напісаныя ў канцы 20 — пачатку 30-х гадоў. Гэта «Матэрыялы да гісторыі беларускай графікі», падрыхтаваныя для выстаўкі «Новая пісьменнасць народаў СССР», якая павінна была адкрыцца ў Маскве ў 1929 г. У іх змешчаны лінгвістычныя каментарыі да 53 беларускіх друкаваных тэкстаў другой паловы 19 — пачатку 20 ст. Другое даследаванне — «Беларускі правапіс і яго рэформа». У ім падрабязна апісвалася складванне і уніфікацыя беларускай арфаграфіі і пунктуацыі з моманту «зараджэння беларускага друкаванага пісьма» да прыняцця ў 1933 г. Пастановы СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». Асаблівая ўвага звернута на работу правапісных камісій Інбелкульта і Беларускай акадэміі навук. Гэтыя завершаныя навуковыя працы ў сувязі з рэпрэсіямі не былі выдадзены і потым, відаць, загінулі.

Пасля пераезду ў Расію галоўным аб'ектам навуковых даследаванняў А. В. Багдановіча становіцца руская мова. У сааўтарстве з іншымі выкладчыкамі Краснадарскага педінстытута ён стварыў падручнік па рускай мове для адыгейскіх школ, часта выступаў з мовазнаўчымі і метадычнымі артыкуламі ў перыядычным друку.

*Літ.:* Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навук. дзейнасці. Мн., 1985. *І. К. Германовіч.*

## БАГДАНОВІЧ МАКСІМ АДАМАВІЧ



Максім Багдановіч пакінуў у спадчыну нашчадкам цудоўныя вершы, у якіх глыбіня думкі спалучаецца са свежасцю людскіх адчуванняў і настрояў. Паэт дапытлівага розуму, зроку і слыху не мог прайсці абыякава міма ўсяго, што ёсць у жыцці. Пісаць М. Багдановіч пачаў рана. Першы яго твор «Музыка» апублікавала «Наша ніва» (6.7.1907), калі Максіму не было яшчэ шаснаццаці гадоў.

Нарадзіўся Максім Адамавіч Багдановіч у 1891 г. ў Мінску, раннія дзіцячыя гады правёў у Гродне, а вучыўся ў Ніжнім Ноўгарадзе (1902—08) і Яраслаўлі (1908—16). Бацька паэта Адам Ягоравіч ва ўспамінах пра сына пісаў, што ў сям'і гаварылі па-руску, але звычаі, захапленні, прывычкі ў аснове сваёй былі беларускія. Усе з пашанай ставіліся як да сусветнай класічнай літаратуры, так і да беларускага фальклору. Казкі і песні бацькоўскага краю, трапныя беларускія прымаўкі, крылатыя словы жывілі паэтычную душу Максіма, які вырашыў «авалодаць роднай мовай сваіх продкаў і авалодаць так, каб пісаць прыгожыя вершы і абагаціць гэтую мову новымі мастацкімі формамі» (Шлях паэта. Збор успамінаў і біягр. матэрыялаў пра Максіма Багдановіча. Мн., 1975. С. 43). У працы М. Багдановіч быў настойлівы і ўпарты. Захаваліся яго сшыткі з выпіскамі са слоўнікаў, зборнікаў, са старажытных друкаваных кніг. Засталіся рукапісы яго твораў з папраўкамі, стараннымі дапрацоўкамі. І вершы. Узор таго, як *Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш, // Абрабіць яго трэба з цярпеннем.*

Паэт ведаў, што не мае права на слабыя творы, бо па іх будуць меркаваць пра здольнасць беларускай мовы расказаць пра свой народ, які выходзіў на шлях самаўсведамлення і адраджэння.

Уся нядоўгая, дзесяцігадовая творчасць паэта была звязана са складанай эпохай — пачаткам 20 ст. «Калі ў памятны 1905 г.,— пісаў Я. Купала,— зрабілася завіруха, калі ў Расіі ў кожнага чалавека стала будзіцца душа да новага жыцця, да новага шчасця, то і ў беларуса будзіцца стала пачуццё свайго «я», стала лунаць доўга дрэмлючая думка, што і мы людзі. Паявіліся паэты, песняры свайго, забытага богам і людзьмі краю і долі народнай» (Зб. тв. Мн., 1976. Т. 7. С. 197—198). Сярод іх і М. Багдановіч. Яго паэзія нараджалася з імкнення служыць беларускаму народу. Звяртаючыся да яго, паэт пісаў: *Табою ўсягды пагарджалі, // Цябе не пушчалі з ярма // І душу тваю абакралі,— // У ёй нават мовы няма* («Народ, Беларускі Народ!»). Ён ставіць перад сабой задачу — даказаць, што беларуская культура «не монстр, не рарытэт, не унікум», а глыбока жыццёвая з'ява, што на беларускай мове можна выказваць самыя высакародныя пачуцці; яна прыдатная для такіх «вытанчаных» паэтычных жанраў, як санет, трыялет, рандо, тэрцыны. У цыкле вершаў «Старая Беларусь» М. Багдановіч нагадвае час, калі беларусы адыгралі значную ролю ў развіцці культуры ўсходняга славянства («Летапісец», «Кніга», «Перапісчык»), а ў вершы «Нашых дзедаў душылі абшары лясоў» раіць *З гэтых дзедаў суровых прыклад нам бы ўзяць,— // Не хіліцца з бяды, не пужацца агня, // Бо мы толькі тады дачакаема дня, // Калі нас не здалее змаганне злякаць.* Вершы пра родны край і сэнс жыцця («Слуцкія ткачыхі», «Мяжы», «Пагоня», «Зразаюць галіны таполі адну за адной...»), пра красу прыроды і харaство чалавечых пачуццяў («Добрай ночы, зара-зараніца!», «Зімой», «Раманс», «Ізноў пабачыў я сялібы», «На чужыне») і сёння прымушаюць шмат каго задумацца, хвалююць услаўленнем жыцця, маладосці, гуманістычнай сутнасці мастацтва. З цікавасцю перачытваюцца яго апавяданні («Музыка», «Апокрыф», «Марына»), змястоўныя літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя працы («За сто лет», «Глыбы і слаі», «Беларускае адраджэнне»). У артыкулах «Беларускі бежанскі прытулак», «Голас з Беларусі: (Да пытання пра беларускую і велікарускую мову ў мясцовай школе)» М. Багдановіч узнімае праблемы навучання роднай мове. Ён радуецца, што беларусы і ў бежанстве зберагаюць свае звычаі, старанна далучаюць дзяцей да беларускага слова. Паэта непакоіць тое, што пры навучанні «по-великорусски» з ужытку беларусаў знікае шмат адметных, чыста беларускіх слоў, вобразаў, зваротаў і звязаных з імі жывых, спрадвечных уяўленняў і перажыванняў народа, а гэта прыводзіць да безумоўнага збяднення дзіцячай псіхікі. Ужо тады, у 1916 г. паэт папярэджваў, што, выводзячы беларускую мову са школы, мы вядзём да растрачвання вынікаў вялізнай, шматвяковай працы цэлага народа, збіваем думку дзіцяці са звыклых псіхалагічных сцяжынак, наўмысна звужаем яго духоўны свет. У лісце да простых людзей «Хто мы такія?» М. Багдановіч з болем пісаў пра тое, што марнуецца, нішчыцца, знікае ўсё роднае, беларускае, і заклікаў найперш просты люд не пакідаць «свае гаворкі, сваіх песняў, сваіх звычаяў — свайго кроўнага, спрадвечнага, беларускага», каб

не сталася так, што «пройдзе колькі часу, і не пазнаем мы ані нашага краю, ані нашых дзяцей». Паэт заўсёды ганарыўся культурнымі здабыткамі свайго народа, і сам імкнуўся іх памнажаць. Робячы агляд беларускай літаратуры за 1911—13 гг., ён радаваўся, «што ў нас вырабілася літаратурная мова» і цяпер не трэба «ісці ў чужыя людзі, шукаючы глыбокіх і трывожных дум, чулага і хвалюючага пачуцця, душу радуючай красы» (Зб. тв. Т. 2. 1968. С. 133). Творчасць М. Багдановіча, якая супала са станаўленнем новай беларускай літаратурнай мовы, спрыяла выпрацоўцы літаратурных норм і правіл, узбагачэнню лексічных запасаў кніжных стыляў — мастацкага, навуковага, публіцыстычнага.

У пачатку 20 ст. акрэсліваліся адцягнена-абстрактныя вобразныя сродкі. Паэзія М. Багдановіча, скіраваная на адлюстраванне высакародных рухаў чалавечай душы, замацоўвала ў літаратурнай мове назвы абстрактных паняццяў і спалучэнні слоў узнёслага гучання *(згадка, воля, расстанне, патоля, спраўванне, жыццёвая бура, краса жывая, шырата духоўная, нязгасны свет, краскі думак шчырых)*. Творы паэта спрыялі пранікненню ў беларускую мову слоў і выразаў, звязаных з паняццямі гісторыі і культуры *(патрыцый, доктар лекарскіх навук, шматфарбныя застаўкі, кірыліца, флейта, муза, мадонна, анонс, Пегас)*, а таксама слоў, якія адлюстроўвалі гарадскі быт *(тратуар, асфальт, вітрына, ламбард, бульвар)*. На вышыню паэтычнага гучання ўзнімаў ён і простыя, «будзённыя» словы свайго народа *(свет газніцы, пыльная глеба, спарадзіць у муках, хаткі прасцюсенькія)*. Вось як у розных вершах пісаў паэт пра цішыню: *вецер лістка не варушыць; чую ў цішы, як расце трава; цішыня агартае мне душу; міла бомы смяюцца ў цішы.*

Паэтычным радкам М. Багдановіча ўласцівы тыповыя для беларускай мовы звароткі, выражаныя клічнай формай назоўніка *(Здароў будзь, зямляча!; Браццы! Ці зможам грамадскае гора?)*, пытальныя канструкцыі *(Ці не вецер гэта звонкі // У тонкіх зёлках шапаціць?; А дзе ж тая крынічанька, //Што голуб купаўся?)*. У вершах М. Багдановіч добра перадаў асаблівасці жывой народнай мовы: *Ой, багаты баяры, багаты, // Ды забыліся ўзяць грашаняты; Не кувай ты, шэрая зязюля, // Сумным гукам у бары.*

Выдатна ўмеючы слухаць і бачыць навакольле, паэт паказвае розныя куточкі «царства светлай прыроды», розныя нюансы «радасці адчування, што ты жывеш». Робіць ён гэта, падбіраючы тое адзінае слова, якое найбольш поўна перадае думку, найбольш дзейсна ўплывае на людскія адчуванні. Верш «Зімовая дарога» пачынаецца так: *Шпарка коні імчацца ў полі, // Сумна бомы гудзяць пад дугой...* Усе словы, акрамя *сумна*, ужываюцца ў прамым значэнні. Гэта не выпадкова, бо аўтар дае прадметна-канкрэтнае апісанне зімовай дарогі. Першы радок меў і другі варыянт: *Шпарка коні бягуць чыстым полем...* Каб дакладней паказаць імклівасць руху, надаць радку большы дынамізм, М. Багдановіч выкрэслівае *бягуць чыстым полем* і піша *імчацца ў полі.* У слове *імчацца* большая хуткасць руху. Змянілася і гучанне радка. Прыслухаемся да пачатку верша, прыгледзімся да гукавой інструментоўкі радка з такім выразным асанансам, які нагадвае рэха ў марозным паветры, свіст ветру ў вушах ад хуткага бегу санак. Вось што значыць «гібкі верш», створаны з надзвычайнай цярплівасцю, увагай да сэнсу і гучання слова. Асананс і алітэрацыю М. Багдановіч лічыў найбольш тонкімі сродкамі паэтычнага ўздзеяння. У яго вершах чуем раскаты грымотаў («Бура»), скрып снегу («Зімой»), пошум лесу («Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун...»), глухое бубненне даху («Завіруха»). Хораша выяўляецца ў паэтычных радках звонкае і плаўнае гучанне беларускага слова, таму так добра кладуцца вершы паэта на музыку.

М. Багдановіч тонка адчуваў усе сэнсавыя адценні слоў, якімі карыстаўся ў мастацкай творчасці. Уключаныя ў сістэму вобразных сродкаў, яны выяўляюць то прамыя, то агульнамоўныя пераносныя значэнні, то атрымліваюць нечаканыя сэнсавыя прырашчэнні, выклікаючы дадатковыя асацыяцыі. Адзін з вершаў гарадскога цыкла пачынаецца радкамі: *На глухіх вулках — ноч глухая, // Не менш глухі людскі натоўп...* Тройчы выкарыстанае слова *глухі* ў кожным выпадку выяўляе новае значэнне: спачатку прыгадваюцца вуліцы, па якіх мала хто ходзіць і ездзіць, асабліва ў глыбокую ноч, потым нечаканы штрышок — пра раўнадушнасць людзей да таго, што робіцца навокал, пра іх нячуласць і неспагадлівасць, душэўную глухату.

Паэт часта карыстаўся эпітэтамі. У вершы «Зімовая дарога» поле нікне ў *срэбным тумане*, дарожкі ўюцца *змейкай срабрыстай*, снег блішчыць, як *халодная сталь*. Мастацкія азначэнні даюць магчымасць паказаць за-

Трыолет.

Мне доўгае разстаньне з Вамі
Чэрней ад Вашых чорных кос.
Чаму ж нядобры час прынёс
Мне доўгае разстаньне з Вамі.
Я пабляднеў ад горкіх сьлёз
І трыолет пачаў словамі:
Мне доўгае разстаньне з Вамі
Чэрней ад Вашых чорных кос.

М. Богдановіч

**Аўтограф верша М. Багдановіча «Трыялет». 1913.**

снежаную прастору, асветленую месяцам, *маркотныя рожкі* якога зіхацяць праз марозную мглу.

Метафара ў творах Багдановіча служыла выразным сродкам эмацыянальна-пластычнага адлюстравання з'яў жыцця. Паэт карыстаўся ёю, калі яна «прасілася» ў радок, які павінен быў загаварыць, засвяціцца пэўнымі адценнямі думкі. Бомы не толькі гудуць, але і *запяваюць аб долі і волі, // Навяваюць у сэрцы спакой; за сцяной смяецца поле; Рынуліся хмары да ракі радзімай // І зліліся з ёю лійнем кропель-слёз; У небе зоркі ад марозу // Пахаладзейшыя дрыжаць.* На метафарычнай аснове ствараў М. Багдановіч перыфразы (*брызгі золата, серабро іголак* — зоры, *агністы меч* — маланка, *залатая пісьменнасць* — мастацкая літаратура). Думка паэта найчасцей мела канкрэтную аснову. Праўда, ён як мастак бачыў падабенства і там, дзе другі чалавек, можа, яго і не прыкмеціў бы. Асабліва гэта заўважаецца ў параўнаннях *(Слёзы з вачэй пакаціліся нізкай парванай; Як птушка ў гібкіх трасніках, // Стралою думка мільганула; Усё знікла— і ўдаласць, і сіла! // Прапала, як дым, як вада).*

Да беларускай мовы М. Багдановіч найбольш далучаўся, чытаючы зборнікі вуснай народнай творчасці. З фальклору прыйшлі ў вершы паэта ўстойлівыя параўнанні *(белы, як лунь; цвёрды, быццам камень; вые, як звер)*, фразеалагізмы *(сягнуць вокам, даць рады, спаць адвечным сном)*, песенныя звароты *(А чалом, чалом, мае госцейкі).* Збліжаючы фальклор з лірыкай індывідуальнага перажывання, ён выкарыстоўваў прыём паралелізму, які станавіўся сродкам раскрыцця асабістага душэўнага стану. Так, верш, пачаты ў народна-песеннай традыцыі радкамі *Не кувай ты, шэрая зязюля*, заканчваецца шчымліва-інтымна: *Кажа, што нядоўга пажыву я, // Што загіну без пары...* Адсюль і просьба да зязюлі — завітаць тады на паэтаву магілу.

У 1913 г. М. Багдановіч выдаў зборнік «Вянок». Гэта — класічная кніга па прадуманасці кампазіцыі і імкненні аўтара ахапіць усё кола чалавечых адчуванняў. Прыцягвае ўвагу зборнік і тым, што адлюстроўвае стан беларускай літаратурнай мовы пачатку 20 ст. У творах паэта знаходзім словы і формы слоў, якія не сталі нарматыўнымі *(рыбалка* — рыбак, *спачуццё* — спачуванне, *дзіцёнак* — дзіця, *сведак* — сведка, *успанёныя* — успоеныя, *твар травой аблутана, дзярэўі, лепш ад мяне)*, некаторыя як устарэлыя захаваліся ў пасіўным лексічным запасе *(мястоўцы, двакроць, капшчызна, залатар, мыта).* Сённяшні чытач знойдзе ў творах паэта не зусім звыклыя цяпер, але характэрныя для пачатку 20 ст. граматычныя формы назоўнікаў *(у палёх, на лісцёх, артыста шчыры, прывязаў да плячоў, край бора, дайсці жадань сваіх).* Паэт, які жыў у рускім моўным асяроддзі, сам перакладаў свае творы на рускую мову, асобныя і пісаў па-руску, не мог пазбегнуць у беларускіх творах русізмаў *(варацідца, скаратаць вечар, пуць, папутчык, уладзець, нявідзімых, труды, брызгі, мяцель, усё ўплыла, яно умрэ, спяшыць душа)*, рускіх форм назоўнікаў *(паля, вугля, ада сна)*, зваротных форм дзеясловаў на *-сь (трасцісь, шапталісь)*, дзеепрыслоўяў тыпу *аблівая срэбрам*, дзеепрыметнікаў *(адляпіўшаяся, ліючайся ракі, гарашчымі, пранёсшыхся днёў)* і інш. Тонкае моўнае чуццё, аднак, засцерагала паэта ад неўласцівых беларускай мове слоў і форм.

Жыццё мастака слова абарвалася 25 мая 1917 г. Сярод папер, якія засталіся на кватэры ў Ялце, дзе ён пражыў апошнія месяцы, знайшлі матэрыялы азбукі для дзяцей «краіныбраначкі». Так М. Багдановіч называў Беларусь. Задумваешся над гэтым — і прыгадваюцца афарыстычныя радкі паэта: *Жывеш не вечна, чалавек, // Перажыві ж у момант век!* Так жыў сам паэт. Звяртаючыся да сваіх паэтычных твораў, як да кроўных дзяцей, ён пісаў: «Вершы, вершы дарагія! Спарадзіў я вас, маленькіх, у час, калі мне падымала грудзі хваля пачуцця». Надзея паэта, што чытач не абміне іх, знойдзе ў іх сугучнае сваім думкам і настрою, спраўдзілася. Асобныя паэтычныя радкі сталі крылатымі выслоўямі. Яны заклікаюць нашчадкаў вялікага паэта да грамадзянскасці і духоўнасці: *Жыві і цэльнасці шукай, // аб шырацэ духоўнай дбай; Рупная пчала ўмее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак; Хваробы лечаць і атрутамі; Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня; Усё знікае, праходзіць, як дым, светлы ж след будзе вечна жывым.*

*Літ.:* Бярозкін Р. С. Чалавек на прадвесні. Мн., 1986; Лойка А. А. Максім Багдановіч. Мн., 1966; Малажай Г. М. Лінгвістычны аналіз тэксту. Мн., 1982.

*Г. М. Малажай.*

## БАГУШЭВІЧ ФРАНЦІШАК КАЗІМІРАВІЧ



Беларускі паэт, празаік, публіцыст і перакладчык Францішак Бенядзікт Казіміравіч Багушэвіч нарадзіўся 21 сакавіка 1840 г. ў фальварку Свіраны Віленскага павета (цяпер Вільнюскі раён, Літва). У 1861 г. паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, адкуль быў выключаны за адмову прыняць новыя універсітэцкія правілы. Настаўнічаў. Удзельнічаў у паўстанні 1863—64 гг., быў паранены. Пасля паўстання з-за пагрозы рэпрэсій пераехаў на Украіну. У 1868 г. скончыў Нежынскі юрыдычны ліцэй. Працаваў памочнікам справавода і судовым следчым у розных гарадах Украіны і Расіі. У 1884 г. пераехаў у Вільню і працаваў адвакатам пры акруговым судзе. У 1885—91 гг. друкаваўся ў польскім часопісе «Kraj» (Пецярбург), выдаў у 1891 г. зборнік «Дудка беларуская» (пад псеўданімам Мацей Бурачок), у 1892 г. апавяданне «Тралялёначка», у 1894 г. зборнік «Смык беларускі» (пад псеўданімам Сымон Рэўка з-пад Барысава). Не ўсе творы Ф. Багушэвіча дайшлі да нас: не знойдзены зборнікі вершаў, не збярогся слоўнік беларускай мовы, які пісьменнік складаў па прапанове Я. Карловіча. У 1898 г. па стане здароўя пакінуў службу і пераехаў у Кушляны (Смаргонскі раён), дзе і памёр 28 красавіка 1900 г.

Сталае жыццё Ф. Багушэвіча супадае з часам нечувана жорсткага ваенна-паліцэйскага рэжыму на Беларусі пасля паўстання 1863—64 гг., калі царскі ўрад выкараняў усякія праявы нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, душыў імкненні беларусаў развіваць нацыянальную культуру і літаратуру на роднай мове. Аднак і ў надзвычай неспрыяльных умовах не спынялася развіццё беларускай нацыянальнай літаратуры, адбывалася далейшае станаўленне беларускай літаратурнай мовы, узбагачаліся яе лексічныя і стылістычныя сродкі, выпрацоўваліся граматычныя і арфаграфічныя нормы.

Ф. Багушэвіч адзін з першых загаварыў пра родную мову як «адзежу душы», найважнейшы сродак нацыянальнай культуры, сцвердзіў правы і паўнацэннасць беларускага слова. У прадмове да кнігі «Дудка беларуская» ён пісаў: «Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мо-

ве, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай»... Я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і пераканаўся, што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая... Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але наперш трэба знаць сваю... Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць людзей ці па г а в о р ц ы, ці па адзежы, хто якую носе; ото ж г а в о р к а, язык і ёсць адзежа душы». Уся творчасць Ф. Багушэвіча — яскравае пацвярджэнне думак, выказаных у прадмове. Мова яго твораў — гэта жывая гаворка блізкіх і дарагіх яму беларусаў, дзівосны сродак адлюстравання стану паэтычнай душы.

Аўтограф верша Ф. Багушэвіча «Маліся, бабулька, да бога». 1891.

Ф. Багушэвіч пісаў і друкаваў свае творы лацінкаю. Зараз яны выдаюцца кірыліцай, таму сучасны чытач не можа ўявіць усіх асаблівасцей Багушэвічавага пісьма, спосабы перадачы паэтам беларускай фанетыкі лацінкаю. Так, зваротная часціца *-цца* перадаецца як *-tca — zdajetca, razlijetca, śmiajetca* (у рукапісах паэта часціца гэта паслядоўна пішацца *-cca*, але пры наборы «Дудкі беларускай» яе не стала). Мяккае беларускае *в (вясёлы, весела, вяселле)* у Багушэвіча цвёрдае — *wasoły, wasoła, wasele*. На радзіме паэта, прынамсі ў Кушлянах, так і гавораць. З яго родных гаворак і форма *miłosci* 'мілосьці', *radości* 'радосьці'; дыялектныя канчаткі ў давальным і месным склонах у назоўнікаў першага скланення: *awieczca, na dudca, pry darożce, u chatce, pa reczca*. У друкаваных лацінкаю творах амаль не перадаецца падаўжэнне зычных: *hranie, powitanie, zboże* (выключэнне — *płamienniach, zdarennie*). Пад уплывам польскай мовы або дыялектаў Багушэвіч піша: *afiara* — сучаснае 'ахвяра', *afiarujuczy* 'ахвяруючы', *fala* 'хваля'; часам не перадае дзеканне: *dwie, dmie* («Хрэсьбіны Мацюка»), *razadmie, ledwie* («Сватаны»); непаслядоўна ўжывае прыстаўное *w: u wastrozie, nawuki — nauki, wajczym — ajczym* («Дурны мужык, як варона»). Большменш паслядоўна перадае Багушэвіч мяккасць зычных перад наступным зычным: *aśminki* 'асьмінкі', *imość* 'імасьць', *gości* 'госьці', адмоўе *не* як *ня*: *niaznaisz, niawiedaisz*. Лацінская графіка дазваляла Багушэвічу перадаваць выбухное *г*: *szmygnuŭ*.

Мова пісьменніка ўвабрала ў сябе важныя стыхіі ўсяго нацыянальнага, пачынаючы ад гукавога афармлення лексічных адзінак і канчаючы структурай фразы. Найбольш значная рыса Багушэвіча-мастака — здольнасць пранікнуць у глыбіні слова, раскрыць яго гістарычна абумоўленыя сэнсавыя і стылістычныя адценні, дзякуючы якім яно становіцца першаэлементам літаратуры, ёмістай характаралагічнай дэталлю пры абмалёўцы пэўных з'яў рэчаіснасці, прадметаў, а таксама пры стварэнні вобразаў. Галоўны герой у літаратурнай спадчыне пісьменніка — селянін, таму аўтар «надзвычай смела і з непараўнальнай дасканаласцю стылізаваў мову сваіх твораў пад мову апавядальніка селяніна, дасягаючы пры гэтым глыбокага адзінства формы і зместу» (Ш а к у н Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1963. С. 233). Мастак цалкам прытрымліваецца народнай эстэтыкі слова, імкнецца да максімальнай сэнсавай самастойнасці кожнай моўнай адзінкі. Прыгледзімся да дзеясловаў у наступных прыкладах: *Каб жыта* ***ўдалося*** («Мая дудка»); *Па судах* ***агалеў*** («Як праўды шукаюць»); *Унадзійся надта ён* [урaднік] ***лазіць*** *па хатах* («У судзе»). Трапнасць выдзеленых слоў абумоўлена глыбокім веданнем жыцця, назіральнасцю і вопытам пісьменніка.

На народную словатворчасць зарыентаваны ў мове Багушэвіча афіксальныя і бязафіксныя ўтварэнні. Ён ужывае чыста фальклорныя, народнапаэтычныя формы слоў з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі: ***Хмаркі*** *цёмныя, мае* ***братанькі!*** *// Вецер гоне вас без* ***дарожанькі,*** *// І нідзе ж для вас няма* ***хатанькі***.. *// Адпачынеце аж у* ***божанькі*** («Хмаркі»); *Не цурайся мяне,* ***панічок,*** *// Што далонь пакрываюць мазолі; // Мазоль — працавітых* ***значок*** («Не цурайся»). Словы з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі сустракаюцца і ў празаічных творах (у апавяданні «Тралялёначка» — *паненачка, сіротачка, кузынка, кузінятачка, дзіцятка, цянькляваненькая, драбнюсенькая* і інш.).

Лёгка і натуральна ўпісваюцца ў агульную моўную палітру твораў Багушэвіча дзеяслоўныя ўтварэнні тыпу *закасіўся, заараўся: Да навукі ён не браўся, //* ***Закасіўся, зааpаўся*** («Дурны мужык, як варона»); ***Пераеўся*** *хлеб да крышкі* («Кепска будзе»). Хараша служаць майстру слова гукапераймальныя дзеясловы-выклічнікі, якія абазначаюць імгненнае аднаразовае дзеянне: *Калі дзверы* ***«скрыпель»****, а я —* ***«шусць»*** *праз людзей, // Ды на двор, ды ў карчму, да кабылы бaрздзей* («У судзе»); *Аж пан* ***хап*** *за рукі,* ***трэсь*** *мяне па твары* («Скацінная апека»). Імкнучыся максімальна прыблізіць мову сваіх твораў да мовы селяніна, Багушэвіч шырока выкарыстоўваў прастамоўную лексіку з грубаватай эмацыянальнай афарбоўкай: *А* ***брахаў*** *дык* ***брахаў*** *і сябе ўсё хваліў* («У судзе»); ***Морду*** *круце набок і за* ***кудлы*** *трасе* («Быў у чысцы»). Падобныя лексічныя адзінкі былі патрэбны аўтару, як архітэктурная дэталь у збудаванні,— гэта ўзоры народнай словатворчасці, заснаваныя на канкрэтна-пачуццёвым, а не паняційным успрыманні рэчаіснасці, таму і абагульненні ў такой мове мастацка-вобразныя, а не абстрактна-паняційныя.

Усё самае выразнае і лепшае ўвабраў пісьменнік з народных моўных глыбінь, з фальклору. Гэта традыцыйна-народныя эпітэты: *Той* ***куртаты*** *зашчыт, як кадзідла, памог* («У судзе»); *А кума ж была* ***праворна*** («Кепска будзе»); разгалінаваная сістэма метафар: *Бедна ж мая хатка*

***расселася*** *з краю* («Мая хата»); [Гора] ***улезла*** *ў хату* («Гора»); *каб умеў* ***кіраваць*** *я пяром* («Не цурайся»); метанімія і сінекдаха: *Тут* ***кажух, і шынель, і бурнос, лапсардак, // І сурдут, і мундзір***... («У судзе»).

Ф. Багушэвіч часта карыстаўся параўнаннем. Амаль у кожны верш ці апавяданне ён увёў трапныя і арыгінальныя параўнанні, сярод іх, як і ў фальклоры, пераважаюць т. зв. лакальныя адзінкі, пабудаваныя на супастаўленні са з'явамі і прадметамі навакольнага жыцця: *Каб скакалі горы... //* ***Як паны на балі*** («Мая дудка»); *Скрабуць скуру нажом,* ***як на боты тавар*** («Быў у чысцы»). Большасцю параўнанняў мастак падкрэсліваў сутнасць сацыяльнай вобразнай псіхалогіі. Паэт спачувае селяніну, які *маркотны,* ***як магіла*** («Кепска будзе»), *цянюсенькі,* ***як той кнот*** («Бог не роўна дзеле»), паважае чалавека працы, што пры спрыяльных умовах гэтак жа, як і пан, кніжку б *счыркаў,* ***як папар*** («Не цурайся»). Гнеўную, сатырычную накіраванасць маюць аўтарскія параўнанні пры абмалёўцы пана, у якога *рукі,* ***як падушкі, //Як кісель,*** *дрыжыць жывот* («Бог не роўна дзеле»), кашуля...// ***як той снег, як папер*** («Не цурайся»). Багушэвіч выкарыстоўвае менавіта тыя параўнальныя звароты, якія ў цесным узаемадзеянні з іншымі моўнымі сродкамі набываюць дадатковыя сэнсавыя адценні.

Шырока прадстаўлены ў творах Ф. Багушэвіча фразеалагізмы, якія надаюць мове сакавітасць, нацыянальную самабытнасць. Пераважаюць агульнавядомыя ўстойлівыя словазлучэнні з ярка выражаным прастамоўным адценнем: *У сведкі улезці,* ***ні села — ні пала*** («Як праўды шукаюць»); *Зборшчык, як дым той,* ***лезе ў вочы*** («Балада»). Часам у творы арганічна ўключаюцца прыказкі і прымаўкі, утвараючы адпаведны стылёвы каларыт: *Смачны жабе гарэх, да зубоў бог не даў* («У судзе»). Глыбока авалодаўшы фразеалагічнымі скарбамі народнай мовы, паэт не толькі выкарыстаў гатовае, але і сам стварыў афарыстычныя выслоўі: *І авечка, хоць дурная, // А воўка ж пазнае!* («Воўк і авечка»); *Не надта свабодна у гэтай свабодзе* («Быў у чысцы»).

Багацце мовы Ф. Багушэвіча ярка праяўляецца ў сінаніміцы. Выкарыстоўваючы цэлую сістэму найменняў прадметаў і з'яў, аўтар робіць мову дынамічнай, каларытнай. Слова *селянін* мае эквіваленты — *мужык, наш брат, гаспадар, браце мой, братцы, бядота, дзеці Зямлі-маткі.* Надзвычай багатая ў пісьменніка дзеяслоўная сінанімія. Два і больш блізкія па значэнні словы, а таксама словазлучэнні пісьменнік часта размяшчае адно за адным (градацыя) ці праз некалькі лексічных адзінак, каб узмацніць сэнсавае ці эмацыянальна-экспрэсіўнае значэнне: *Іх!* ***закіпеў*** *той князь, аж* ***зароў,*** *// Аж* ***вылупіў вочы, счырванеў*** *ён, як кроў...* («Хрэсьбіны Мацюка»); *Каб душа* ***балела,*** *гледзячы на долю, // Каб* ***сэрца шчымела і рвалася з болю?*** («Праўда»).

Паўтор слоў, словазлучэнняў і сказаў — адзін з эфектыўных сінтаксічных прыёмаў у мове мастацкіх твораў. У Багушэвіча ён сустракаецца неаднаразова: ***Гаварыў, гаварыў,*** *ажно піць захацеў* («У судзе»); *А ўсё* ***піша, піша, піша*** *// І нагой усё калыша, //* ***Пісаў, пісаў,*** *даў другому* («Кепска будзе») і інш. Пісьменнік выкарыстоўваў традыцыйна-фальклорныя прыёмы двух- або трохразовага паўтору для ўзмацнення экспрэсіі выказвання, падкрэслівання лейтматыву якой-небудзь думкі ці ідэі. У некаторых вершах ён цалкам арыентаваўся на фальклорныя ўзоры (напрыклад, «Песні» са зборніка «Смык беларускі»). Тут спецыфічныя для фальклору рытарычныя фігуры, словазлучальныя структуры, вонкавыя афармленні, жывыя размоўныя інтанацыі — найважнейшыя элементы эстэтыкі пісьменніка: *Люлі, сынок, люлі, люлі! // Усе курачкі паснулі, // Ой, паснулі і курчаткі // Пад скрыдэлкам сваёй маткі. // А ты чаго не спіш, сынку, // Як бы чуў ліху гадзінку? // Можа будзеш калі панам // Ці вялікім капітанам, // А як матка прыйдзе ў госці, // Ой, то будзе ёй радосці...* («Калыханка»).

Ф. Багушэвіч жыў і пісаў у той час, калі яшчэ не былі выпрацаваны адзіныя агульнанацыянальныя моўныя нормы. У яго творах, як і ў творах іншых пісьменнікаў 2-й паловы 19 ст., яскрава адлюстраваліся агульныя заканамернасці развіцця беларускай літаратурнай мовы. Не было рэгламентацый на ўжыванне лексічных сродкаў, таму побач з агульнаўжывальнай лексікай сустракаюцца тэрытарыяльна абмежаваныя словы: *найда* (карысць), *ройсты* (кусты на балоце), *ляк* (страх), *цёнгле* (заўсёды), *гілёс* (балота) і інш. Сустракаюцца таксама непаслядоўныя напісанні, нематываваныя запазычанні, адхіленні ад агульнапашыраных фанетычных і марфалагічных з'яў. І ўсё ж, з якімі б меркамі ні падыходзіць да літаратурнай спадчыны пісьменніка, яна заўсёды адкрывае нам свет бясконцых магчымасцей, прыгажосці і велічы беларускага слова. Мастак заўсёды дбаў «аб бацькавай спрадвечнай мове» і змог па-сапраўднаму авалодаць таямніцамі слоўнага майстэрства.

*Літ.:* Марозаў В. І. Лексіка твораў Ф. Багушэвіча, якая называе чалавека // Даследаванні па літаратуры і мове. Гродна, 1967; Яго ж. Марфалагічныя дыялектызмы ў творах Ф. Багушэвіча // Тамсама; Ламека У. Б. У плыні Багушэвічавай мовы // Полымя. 1984. № 7; Содаль У. І. З Багушэвічавай граматыкі // Дзень паэзіі — 90. Мн., 1990. С. 215—216.

*У. Б. Ламека, У. І. Содаль.*

## БАЙКОЎ МІКАЛАЙ ЯКАЎЛЕВІЧ



Беларускі мовазнавец М. Я. Байкоў нарадзіўся 22 лютага 1889 г. ў г. Бежацк Цвярской вобласці. У 1913 г. скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію са ступенню кандыдата-магістранта і быў накіраваны ў Мінскую духоўную семінарыю выкладчыкам філасофскіх і педагагічных дысцыплін. Гэтыя дысцыпліны па сумяшчальніцтве выкладаў і ў іншых навучальных установах горада. У 1918 г. быў абраны выкладчыкам Мінскага настаўніцкага інстытута, пераўтворанага ў пачатку 1919 г. ў Педагагічны інстытут, а ў сярэдзіне 1920 г.— у Інстытут народнай асветы. Там чытаў курсы педагогікі, псіхалогіі, логікі і гісторыі філасофіі. Выкладчыцкую дзейнасць у гэтых інстытутах, а пазней у Белпедтэхнікуме спалучаў з даследчай на пасадзе сакратара Тэрміналагічнай камісіі пры Народным камісарыяце асветы БССР, а потым Слоўнікавай камісіі Інбелкульта і Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук БССР. У сярэдзіне 1930 г. беспадстаўна абвінавачаны і звольнены з акадэмічнай пасады. Памёр 23 ліпеня 1941 г.

М. Байкоў зрабіў значны ўклад у педагогіку, беларускую літаратуру і беларускую мову, аднак найбольш вядомы ён стаў сваімі мовазнаўчымі працамі, найперш лексікаграфічнымі.

У 1923 г. выйшаў складзены М. Байковым слоўнік тэрміналогіі логікі і псіхалогіі, які змяшчаў 1090 беларускіх тэрміналагічных слоў і словазлучэнняў як перакладных эквівалентаў да прынятых у рускай літаратурнай мове тэрмінаў. У 1924 г. апублікаваны ўкладзены М. Я. Байко-

вым і М. І. Гарэцкім «Практычны расійска-беларускі слоўнік», які меў на мэце, як сказана ў прадмове, «даць практычную дапамогу пры пераходзе на беларускую мову ў выкладанні навук у беларускіх школах і вядзенні спраў у беларускіх дзяржаўных, грамадскіх і кааперацыйных установах» (С. 4). Рэестравая частка слоўніка налічвае больш за 18 тысяч слоў і словазлучэнняў. Тут і агульнаўжывальныя словы і словазлучэнні, і тэрміналагічныя. Прыналежнасць апошніх да пэўных галін навукі і тэхнікі звычайна адзначана ў дужках спецыяльнымі паметамі. У рэестравую частку ўключана 136 уласных назваў — геаграфічныя назвы і мужчынскія і жаночыя імёны. У 1926 г. гэты слоўнік выйшаў другім выданнем. Амаль на чвэрць была абноўлена рэестравая частка, спрошчана сінанімічнасць і дублетнасць перакладных эквівалентаў. Цікавым для свайго часу быў «Практычны беларускі вайсковы слоўнік» (ч. 1. Расійска-беларуская. 1927), укладзены М Байковым і А. Бараноўскім. Рэестравая частка слоўніка налічвае каля 10 тысяч слоў і ўстойлівых словазлучэнняў.

Вялікую практычную ролю адыгралі ўкладзеныя М. Я. Байковым і С. М. Некрашэвічам «Беларуска-расійскі слоўнік» (1925) і «Расійска-беларускі слоўнік» (1928). Рэестравая частка першага налічвае больш за 20 тысяч слоў, а другога — больш за 60 тысяч. У другім слоўніку рускія словы перакладзены звычайна не адным, а некалькімі сінанімічнымі беларускімі адпаведнікамі.

Многа часу і сіл М. Я. Байкоў аддаў незавершанаму слоўніку жывой беларускай мовы, калектыўная праца над якім паспяхова вялася з 1925 г. і лічылася найважнейшым навуковым заданнем Інбелкульта, а потым і АН БССР. З'яўляючыся сакратаром Слоўнікавай камісіі, Байкоў кіраваў збіраннем лексічных матэрыялаў. Ён склаў і Праект укладання гэтага слоўніка, абмеркаваны і прыняты камісіяй 15 красавіка 1929 г.

М. Я. Байкоў быў перакананым прыхільнікам ачышчэння беларускай літаратурнай мовы ад непатрэбных запазычанняў і стварэння навуковай тэрміналогіі на народнай аснове. Гэтыя думкі ён паслядоўна праводзіў у сваёй лексікаграфічнай практыцы і абгрунтоўваў у мовазнаўчых рэцэнзіях і артыкулах. Створаныя М. Я. Байковым беларускія навуковыя тэрміны (найчасцей спосабам калькавання іншамоўных) у нашай мове пераважна не прыжыліся.

М. Я. Байкоў — аўтар лемантара для вясковых лікпунктаў «Наша сіла — Саветы» (1928; 3 выд. 1929) і сааўтар лемантара для дарослых «Наша сіла — ніва ды машына» (1925; 2 выд. 1927). Найбольш значныя літаратуразнаўчыя артыкулы М. Я. Байкова выдадзены ў зборніку «На літаратурныя тэмы» (1929).




**С. М. Некрашэвіч, М. Я. Байкоў. «Расійска-беларускі слоўнік» (вокладка). 1928.**

*Тв.*: Праект укладання слоўніка жывой беларускай мовы. Мн., 1929; Прыкметы новай педагогіі // Школа и культура Советской Белоруссии. 1921. № 1—2, бел. аддзел; Лексікон беларускай мовы ў нямецкай апрацоўцы // Вестник Нар. комиссариата просв. ССРБ. 1921. № 1, бел. аддзел; Памяці А. Бурбіса // Тамсама. 1922, № 3—4 (5—6), бел. аддзел; Культурно-просветительская работа в Белорусской республике // Педагогическая мысль. 1922. № 5—6; Слоўнікавая праца ў беларускай мове // Адраджэнне. Мн., 1922. Сш. 1; Беларуская школа як фактар культуры беларускага пралетарыяту // Полымя. 1923. № 3—4; Некаторыя ўвагі на беларускую літаратурную тэрміналогію: (Рэц.: Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 2. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва. Мн., 1923) // Тамсама. 1923. № 7—8; Сучасны стан і перспектывы слоўнікавай працы на месцах у БССР // Асвета. 1927. № 2. Да пытання аб чужаземных словах у нашай мове // Полымя. 1927. № 4; Аб нашай мовазнаўчай тэрміналогіі // Тамсама. 1928. № 3; Слоўнікавая праца на месцах у БССР за тры гады (1925—1928) // Наш край. 1928. № 12.

*Літ.:* Германовіч І. К. М. Я. Байкоў // Беларускія мовазнаўцы. Мн., 1985; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды: Биобиблиогр. словарь. Т. 2. Мн., 1977.

*І. К. Германовіч.*

## БАЛГАРСКАЯ МОВА

На гэтай славянскай мове гавораць балгары (каля 10 млн. чалавек), народ, што жыве галоўным чынам у Балгарыі. Балгарскі народ роднасны беларускаму. Тэкст на балгарскай мове здаецца беларусу вельмі блізкім — ён напісаны як бы «рускімі» літарамі. Аднак больш справядліва будзе лічыць, што гэта ўсходнеславянскія народы пішуць «балгарскімі» літарамі — з улікам таго, што славянскае пісьмо было створана ў 9 ст. братамі Кірылам і Мяфодзіем, ураджэнцамі г. Солуні (тады — у Балгарыі), і толькі потым распаўсюдзілася па іншых паўднёва- і ўсходнеславянскіх краінах.

Балгарская і беларуская мовы маюць шэраг агульных рыс, значная частка якіх узыходзіць да іх агульнаславянскіх гістарычных каранёў. Многія балгарскія словы зразумелыя беларусу без перакладу: *вода, сестра, небе, море, око, глава, хляб, нов, стар, славянски* і да т. п. У балгарскай мове падобная на беларускую сістэма часцін мовы і такіх граматычных катэгорый, як род, лік, асоба, стан і інш.

Балгарская мова займае ў славянскім свеце асаблівае становішча. Перш за ўсё гэта мова аналітычная: сувязі паміж словамі ў сказе выяўляюцца не столькі флексіямі ці канчаткамі слоў, колькі парадкам слоў і службовымі словамі (прыназоўнікамі, злучнікамі, часціцамі); назоўнік, прыметнік і лічэбнік у балгарскай мове не змяняюцца па склонах. Параўнаем беларускі сказ *Начальнік аддзела папрасіў яго перадаць рэдактару газеты матэрыял пра адкрыццё выстаўкі* і яго пераклад на балгарскую мову: *Началникът на отдела го помоли да предаде на редактора на вестника материала за откриване на изложбата.*

Другая яркая асаблівасць балгарскай мовы — наяўнасць у ёй катэгорыі азначальнасці імені. Назоўнік і яго непасрэдныя вызначэнні могуць выступаць у балгарскай мове ці ў так званай агульнай форме: *жена, ухо, град*, ці ў форме з артыклем (членам), які далучаецца ў канцы слова: *жената, ухото, градът.* Назоўнік тут абазначае канкрэтнае ці родавае паняцце: *жената* абазначае «гэта жанчына» ці «жанчына ўвогуле».

Дзеяслоў у балгарскай мове мае разгалінаваную сістэму з 9 часоў. Акрамя цяперашняга часу, яна ўключае ў сябе формы 4 будучых і 4 прошлых часоў. Сярод іх ёсць, у прыватнасці, плюсквамперфект («прошлы папярэдні час»), якому можна знайсці адпаведнасць у беларускіх дыялектах. Параўнаем беларускі сказ *Маці была пераехала да дачкі, але цяпер ужо зноў вярнулася ў вёску* і балгарскі пераклад: *Майката беше се преместила при дъщеря си, но сега пак се върна в селота.* У цэлым жа, напрыклад, дзеяслоў *преместя се* 'пераехаць' мае ў балгарскай мове наступныя часавыя формы: *бях се преместил, преместил съм се, преместих се, преместех се, преместя се, ще се преместя, щях да се преместя, ще съм се преместил, щях да съм се преместил.*

Цікава, што некаторыя моўныя асаблівасці, агульныя для балгарскай і беларускай моў, адсутнічаюць у рускай (ці наогул у іншых славянскіх мовах). Параўнаем, напрыклад, такія словы, як балгарскія *червен, говедо, глог, жужел, оклепя се* і беларускія *чырвоны, гавяда, глог, жужаль, абкляпацца* і да т. п. Тое самае датычыцца фанетычных, марфалагічных і іншых характарыстык дзвюх моў. Напрыклад, у балгарскай мове, як і ў беларускай, ёсць спецыфічныя зычныя *дж* і *дз*; гук [ц] цвёрды процiпастаўлены [ц'] мяккаму; ад адушаўлёных назоўнікаў без вялікіх перашкод утвараюцца прыналежныя прыметнікі: *брат — братов, Алеко — Алеков* і да т. п.; у размове шырока выкарыстоўваецца клічная форма назоўнікаў: *Иване* ад *Иван, другарю* ад *другар* 'таварыш' і да т. п. Адна з прычын такой з'явы заключаецца ў тым, што балгарская і беларуская мовы захавалі некаторыя архаічныя рысы лепш, чым іншыя мовы.

Асаблівасці балгарскай мовы ў значнай меры вызначаюцца яе прыналежнасцю да балканскага моўнага саюза. Ва ўсякім выпадку, такія адметныя асаблівасці, як наяўнасць артыкля, спецыяльнага пераказвальнага ладу, адсутнасць інфінітыва і г. д. з'яўляюцца агульнымі і для некаторых неславянскіх моў, распаўсюджаных на Балканскім паўвостраве: албанскай, румынскай, турэцкай.

Балгарская мова праз пасрэдніцтва царкоўнаславянскай зрабіла істотны ўплыў на ўсходнеславянскія мовы. Аднак у беларускай гэты ўплыў прыкметна слабейшы, чым у рускай. Напрыклад, у рускай поруч з так званымі поўнагалоснымі формамі з *-оло-, -оро-, -ере- (голова, сторож, берег)* існуюць і стылістычна ўзвышаныя няпоўнагалосныя формы з *-ла-, -ра-, -ре-*, па сваім паходжанні царкоўнаславянскія *(глава, страж, брег)*; беларуская ж мова такога процiпастаўлення не ведае.

Вывучэнне балгарскай мовы ў Беларусі ўзыходзіць да пачатку 20 ст. і перш за ўсё звязана з працамі Я. Ф. Карскага і П. А. Бузука. З 1960-х гадоў параўнальныя беларуска-балгарскія лінгвістычныя даследаванні вядуцца больш планамерна — у БДУ і ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі. Старажытныя і сучасныя асаблівасці балгарскай мовы даследуюцца ў рэспубліцы ў працах Г. А. Цыхуна, Б. Ю. Нормана, У. А. Карпава, А. Я. Супруна, В. У. Мартынава, М. А. Муталімавай, А. М. Калюты і іншых.

Балгарская літаратура мае старажытныя карані і традыцыі, але найбольш актыўна яна развіваецца пасля вызвалення Балгарыі ад турэцкай няволі (з 1878 г.). Буйнейшыя балгарскія пісьменнікі канца 19 — пачатку 20 ст. — гэта І. Вазаў (яго раман «У ярме» перакладзены на многія мовы свету, у тым ліку на беларускую), П. П. Славейкаў, А. Канстанцінаў, Элін Пялін, П. Явараў, Дз. Дзебелянаў. У паслярэвалюцыйны час балгарская літаратура прадстаўлена такімі іменамі, як Дз. Дзімаў, Э. Станеў, Дз. Талеў, Э. Багрына, П. Вежынаў, М. Хайтаў, Я. Радзічкаў і інш. Некаторыя з іх твораў вядомы і беларускаму чытачу. Плённа працуюць у Беларусі ў галіне мастацкага перакладу з балгарскай мовы Н. Гілевіч, А. Разанаў, У. Аніскові́ч і іншыя.

Беларуская літаратура таксама мае ў Балгарыі сваіх аматараў і перакладчыкаў. Балгарскі чытач добра знаёмы з творчасцю Я. Купалы і Я. Коласа, П. Броўкі і М. Танка, І. Мележа і В. Быкава. Актыўна займаліся ці займаюцца перакладамі ў Балгарыі з беларускай мовы А. Германаў, С. Паптонеў, Г. Вылчаў, Н. Вылчаў, Л. Лашкава, Р. Эўцімава і іншыя.

*Літ.*: Маслов Ю. С. Грамматика болгарского языка. М., 1981; Лекаў І. Старая супольнасць і новыя канвергенцыі ў развіцці беларускай і балгарскай моў // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972; Норман Б. Ю. История и съвременно състояние на изследванията на българския език в Белорусия // Съпоставително езикознание. 1984. Т. 9. № 2.

*Б. Ю. Норман.*

## БАЛТА-СЛАВЯНСКАЯ ПРАБЛЕМА

Што бліжэйшымі да славянскіх моў з'яўляюцца балтыйскія (у балтыйскіх і славянскіх мовах шмат супадзенняў у фанетыцы, словазмяненні, словаўтварэнні і лексіцы) — агульнапрызнаны факт, але існуюць розныя яго тлумачэнні. Адны даследчыкі лічаць гэта вынікам паходжання ад балта-славянскай прамовы, другія — вынікам моўных узаемаўплываў і працяглага суіснавання продкаў балтаў і славян на сумежных тэрыторыях, трэція — тлумачаць спалучэннем генетычнага адзінства і інтэнсіўных кантактаў. Найбольш рэалістычны апошні падыход, бо шэраг супадзенняў нельга вытлумачыць моўным узаемаўплывам, а дыялекты, якія развіліся на сумежжы, не маглі яго пазбегнуць. Вопыт параўнальнага вывучэння блізкіх моў сведчыць аб словаўтварэнні як найбольш надзейным паказчыку паходжання ад адзінай прамовы (суфіксальным для назоўнікаў, прэфіксальным для дзеясловаў, наяўнасці супольных семантычных зрухаў). Так, у балтыйскіх і славянскіх мовах назіраюцца супольныя суфіксальныя новаўтварэнні назоўнікаў тыпу *кій* (літоўскае kūjùs — молат), *вянок* (латышскае vainuks — вянок), *ногаць* (старажытнапрускае nagutis — ногаць); супольныя прэфіксальныя новаўтварэнні дзеясловаў тыпу *прыйсці* (літоўскае prieĩti — прыйсці), *прыбегчы* (літоўскае pribė̃gti — прыбегчы), *аддаць* (літоўскае atidúoti — аддаць); супольныя семантычныя новаўтварэнні тыпу *долата* (старажытнапрускае dalptan — долата), *дзяўбці* (літоўскае dil̃bti — біць), *цесць* (старажытнапрускае tisties — цесць, старажытнагрэчаскае — tiktō — нараджаю). Агульнасць словаўтваральных сістэм балтыйскіх і славянскіх моў падтрымліваецца адзінствам старажытных сістэм галосных і зычных. Сярод галосных можна правесці такія балта-славянскія паралелі: *жадаю* (літоўскае gendù — жадаю; *э* насавое), *рука* (літоўскае rankà — рука; *о* насавое), *сын* (літоўскае sūnùs — сын; доўгае *у*, якое на славянскай моўнай глебе пераходзіць у *ы*), *галава* (літоўскае galvà — галава; спалучэнне *о* з *л*); сярод зычных — *сена* (літоўскае šiẽnas — сена), *сярэдзіна* (літоўскае širdìs — сярэдзіна; пачатак слова на палатальнае *к*, якое перайшло ў *с* у славянскіх мовах і ў *ш* у літоўскай); *зямля* (літоўскае žẽmė — зямля), *зіма* (літоўскае žiemà — зіма; пачатак слова на палатальнае *г*, якое перайшло ў *з* у славянскіх мовах і ў *ж* у літоўскай). Менш паказальнымі з'яўляюцца марфалагічныя працэсы. Напрыклад, балгарская і беларуская мовы, якія маюць агульнага славянскага продка, характарызуюцца зусім рознымі марфалагічнымі сістэмамі пры ідэнтычным словаўтварэнні і лексічнай семантыцы. У балтыйскіх і славянскіх мовах шмат агульнага ў словаўтварэнні, што сведчыць пра іх генетычнае адзінства. Але хто быў той агульны продак? Вядома, што балтыйская прамова за некалькі стагоддзяў да нашай эры раздзялілася на ўсходнюю і заходнюю галіны. Прычым нашчадкі заходніх балтаў (прусы, ятвягі і інш.) засталіся на старой тэрыторыі, а продкі літоўцаў, латышоў і іншых прадстаўнікоў усходніх балтаў рассяліліся на ўсход. Якое месца ў гэтым працэсе займалі продкі славян? Адказаць на гэта пытанне дазваляе супастаўленне характарыстык славянскіх моў з адпаведнымі характарыстыкамі ўсходніх і заходніх балтыйскіх моў. Ад заходняй галіны збераглiся толькі рэшткі старажытнапрускай мовы. Але і яны сведчаць пра асаблівую блізкасць заходніх балтыйскіх моў да славянскіх у словаўтварэнні і граматычнай лексіцы, яна перавышае блізкасць адпаведных катэгорый (займеннікі, прыслоўі, прыназоўнікі) усходнебалтыйскіх моў. Калі ўлічыць, што апошнія прадстаўлены жывымі надзвычай багатымі літоўскай і латышскай мовамі, тады як пруская — толькі невялікімі і тэматычна вельмі абмежаванымі помнікамі, інфарматыўная перавага прускай мовы становіцца асабліва відавочнай. Якія вывады можна зрабіць з гэтай пруска-славянскай моў-

най блізкасці? Перш за ўсё той, што ў заходніх балтаў і славян быў адзіны моўны продак, што калісьці існавала заходнебалтыйская моўная еднасць, г. зн. дыялектная безупыннасць з рэгулярнымі моўнымі зносінамі яе членаў і іх узаемаразуменнем. Пра гэта сведчаць не толькі супольныя моўныя наватворы, але і супольныя набыткі з трэціх моў (італійска-кельцкіх, іранскіх), якія мелі значны ўплыў на станаўленне і развіццё праславянскай мовы. Асаблівую ролю тут адыгрываюць найбольш старажытныя сувязі славянскіх моў з германскімі. Даказаная зараз наяўнасць славянізмаў у прагерманскай мове таксама сведчыць аб заходняй лакалізацыі праславянскай мовы, яна супадае з заходнебалтыйскай моўнай тэрыторыяй. Вырашэнне балта-славянскай праблемы зараз выглядае наступным чынам. У пачатку 1-га тысячагоддзя да нашай эры балтыйская моўная еднасць распалася на дзве часткі: заходнюю, да якой адносяцца такія мёртвыя мовы, як старажытнапруская і ятвяжская, і ўсходнюю, якую прадстаўляюць сёння літоўская і латышская. Існуе меркаванне, што з заходнебалтыйскай прамовы вылучылася і праславянская. Пра час нараджэння праславянскай мовы можна здагадвацца толькі па некаторых ускосных звестках. Так, славянскія мовы маюць агульную назву для такога важнага металу, як медзь. Гэта назва невядомая балтыйскім мовам, параўн. літ. vãris медзь, латыш. varš — тое самае. Існуе думка пра фінскае паходжанне балтыйскай назвы медзі, што дае падставу для гіпотэзы аб паўночным шляху імпарту металу на тэрыторыю распаўсюджання балтыйскіх плямён. Іншыя шляхі імпарту медзі выяўляюцца на старажытнай славянскай зямлі. Паколькі слова *медзь*, як даведзена ў нашай навуцы, мідзійскага паходжання і азначала калісьці назву краіны Мідзія, можна меркаваць, што сам метал прыйшоў да славян з мідзійскіх медных руднікоў. Вядома, напрыклад, што лацінская назва медзі cuprum звязана паходжаннем з востравам Кіпр, дзе таксама існавалі медныя руднікі. Паколькі эпоха бронзы на заходнебалтыйскай тэрыторыі завяршылася ў 7 ст. да нашай эры і тады ж спынілася актыўнае функцыяніраванне мідзійскіх медных руднікоў, можна меркаваць, што выдзяленне асобнай славянскай моўнай галіны адбылося ў той час.

Пытанне аб паходжанні беларускай мовы цесна звязана з балта-славянскай праблемай. Уся тэрыторыя нашай рэспублікі, апрача часткі Брэсцкай вобласці паміж Ясельдай і Прыпяццю, характарызуецца гідранімікай балтыйскага паходжання. Гэта значыць, што абсалютная большасць назваў рэк і вадаёмаў створана на аснове балтыйскіх моўных правіл. Для некаторых з іх існуе поўная адпаведнасць каранёвай і суфіксальнай частак: параўн. бел. *Лучаса* і літ. Laukesà, бел. *Нявежа* і літ. Nevėžis і інш. Усё гэта сведчыць, што на асноўнай тэрыторыі нашай рэспублікі, да таго як сюды прыйшлі славяне, быў распаўсюджаны нейкі ўсходнебалтыйскі дыялект, які пасля 8 ст. н. э. паступова выцеснены ўсходнеславянскім.

*Літ.*: Мартынов В. В. Праславянская и балто-славянская суффиксальная деривация имён. Мн., 1973; Яго ж. Праславянский язык и его место в западно-балтийском диалектном континууме. Мн., 1988; Откупщиков Ю. В. Балтийский и славянский // Сравнительно-типологические исследования славянских языков и литератур. Л., 1983; Топоров В. Н. К реконструкции древнейшего состояния праславянского языка // Славянское языкознание. М., 1988. *В. У. Мартынаў.*

## БАЛТЫЙСКІЯ МОВЫ

Да балтыйскіх моў адносяцца літоўская (прыкладна 3 млн. носьбітаў) і латышская (прыкладна 1,5 млн. носьбітаў). Іх сучаснае распаўсюджанне супадае пераважна з граніцамі гэтых 2 краін. Да гэтай жа групы індаеўрапейскіх моў належаць некалькі мёртвых моў: старажытнапруская, ятвяжская, куршская і інш. З іх толькі старажытнапруская прадстаўлена невялікай колькасцю пісьмовых помнікаў 15—16 ст. і анамастыкай (тапанімікай і антрапанімікай). Ятвяжская мова да апошняга часу вывучалася на аснове вельмі абмежаванага анамастычнага матэрыялу. Зараз знойдзены маленькі слоўнічак, які лічыцца ятвяжскім. Ён налічвае каля 240 слоў з перакладам іх на польскую мову. У параўнанні са старажытнапрускім Эльбінгскім слоўнікам (800 слоў асноўных прадметна-сінанімічных груп з перакладам на нямецкую мову) ён дае зусім мала звестак пра асаблівасці мовы. У адрозненне ад мёртвых балтыйскіх моў літоўская і латышская мовы характарызуюцца надзвычайным лексічным багаццем і дыялектнай разнастайнасцю. Нягледзячы на тое, што іх першыя пісьмовыя помнікі адносяцца да 14 ст., яны збераглі вельмі старажытныя рысы, і пачынаючы з 19 ст. літоўская мова з яе асаблівай архаікай разглядалася нараўне са старажытнагрэчаскай, санскрытам і лацінскай як адна з асноўных крыніц для рэканструкцыі індаеўрапейскага моўнага адзінства.

У старажытнасці балтыйскія мовы мелі значна большае распаўсюджанне. Балтыйская моўная глеба ахоплівала рэгіёны далёка за межамі сучасных Літвы і Латвіі як на захад, так і на ўсход (ад Одры да Дняпра). Мясцовыя назвы (гідраніміка і мікратапаніміка) сведчаць пра тое, што асобныя групы балтаў даходзілі нават да тэрыторыі сённяшняга Падмаскоўя (голядзь). Цікава адзначыць, што балтызмы, якіх шмат і ў рускіх дыялектах, адрозніваюцца сваім складам ад беларускіх, а гэта значыць, што продкі беларусаў і рускіх кантактавалі з рознымі групамі балтаў. Што да славянізмаў у літоўскай і латышскай мовах (а іх яшчэ больш), то яны таксама адрозніваюцца, бо ў літоўскай мове пераважаюць беларускія і польскія запазычанні, а ў латышскай — рускія. Пра шырокую геаграфію старажытных балтаў сведчыць таксама ўплыў балтыйскіх моў на прыбалтыйска-фінскія мовы. На беларускай тэрыторыі надзвычай поўна прадстаўлена гідраніміка балтыйскага паходжання, і гэта зусім заканамерна, бо славяне прыйшлі сюды не раней за 8 ст. нашай эры. Да гэтага часу тут жылі ўсходнія балты, блізкароднасныя літоўцам, але са сваімі дыялектнымі асаблівасцямі, што дае падставу лічыць іх мову асобнай усходнебалтыйскай. Балтыйская гідраніміка дасягала Прыпяці на поўдні і Сейма на паўднёвым усходзе. У сучасных беларускіх дыялектах збераглося нямала балтызмаў, якія ўзыходзяць да тых далёкіх часоў, калі на гэтую тэрыторыю прыйшлі першыя славяне. Значная колькасць балтызмаў адзначана і ва ўкраінскай мове, што тлумачыцца кантактамі на Прыпяці, Ясельдзе і Гарыні. У гэты рэгіён славяне прыйшлі з захаду ў пачатку нашай эры. Па р. Сейм праходзіла граніца паміж балтамі і іранцамі, што адбілася на шэрагу балта-іранскіх лексічных адпаведнасцей.

Нягледзячы на значныя адрозненні, у балтыйскіх мовах існуюць некаторыя агульныя рысы, што дае падставу лічыць іх роднаснымі. Сярод гэтых рыс асаблівасці, якія адрозніваюць балтыйскія дыялекты ад іншых індаеўрапейскіх, у фаналагічнай сістэме (супрацьпастаўленне па мяккасці — цвёрдасці зычных), у сістэме дзеясловаў (форма 3-й асобы адзіночнага ліку супадае з адпаведнымі формамі множнага і парнага), у складзе словаўтваральных фармантаў назоўнікаў (літоўскія памяншальныя суфіксы на *-ul-*, *-už-*, *-ut-*: *tėtùlis* — татуля, *mergùžė*—дзяўчынка, *vaikùtis*— дзіцятка), у антрапаніміцы (літоўскае *Algirdas* і старажытнапрускае *Algard*, адпаведна *Klausigaila* і *Glawsigail*) і, нарэшце, існуе больш за сто лексем, распаўсюджаных у балтыйскіх мовах, для якіх не знойдзены паралелі ў іншых індаеўрапейскіх (сярод іх літоўскае *ą̃žulas*, латышскае *ozols*, старажытнапрускае *ansons* — дуб; літоўскае *dangùs*, старажытнапрускае *dangus* — неба; літоўскае *lãbas*, латышскае *labs*, старажытнапрускае *labs* — добры і інш.). Існуюць рысы, якія адрозніваюць усходнебалтыйскія мовы (літоўскую і латышскую) ад заходнебалтыйскіх (прускай). Так, значэнні займеннікаў *мой, твой, свой* перадаюцца

ў літоўскай мове *mânas, tâvas, sâvas*, латышскай *mans, tavs, savs*, у той час як старажытнапрускія *mais, twais, swais* дакладна адпавядаюць славянскім формам.

Навука апошніх гадоў паказала, што славянскія мовы бліжэй да заходнебалтыйскіх (адзіным характэрным прадстаўніком якіх засталася старажытнапруская), што паміж імі існуе дыялектная агульнасць, што прабалтыйская мова распалася на ўсходнюю і заходнюю яшчэ да таго, як ад апошняй аддзялілася праславянская. Таму так важна для славістаў вывучэнне балтыйскіх моў, самых блізкіх да славянскіх, што дапамагае даследчыкам вырашаць пытанні паходжання славян.

*Літ.*: Топоров В. Н. Балтийские языки: Введение // Языки народов СССР. Т. 1. Индоевропейские языки. М., 1966. Лексічныя балтызмы ў беларускай мове. Мн., 1969. *В. У. Мартынаў.*

## БАРАДУЛІН РЫГОР ІВАНАВІЧ



Беларускі паэт і перакладчык Р. І. Барадулін нарадзіўся 24 лютага 1935 г. на хутары Верасоўка Ушацкага раёна Віцебскай вобл. У 1959 г. скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў, у выдавецтве «Беларусь». З 1985 г. загадчык рэдакцыі выбраных і збораў твораў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Першыя вершы надрукаваў у 1953 г. ў газеце «Чырвоная змена». Выдаў каля 4 дзесяткаў кніг лірыкі, сатыры і гумару, паэзіі для дзяцей. Народны паэт Беларусі (1992). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1976, за зборнік вершаў «Рум» і кнігу перакладаў выбранай лірыкі Ф. Гарсія Лоркі «Блакітны звон Гранады»), прэміі ЛКСМБ (1976, за паэму «Балада Брэсцкай крэпасці»).

Жыццё паэта цалкам прысвечана служэнню роднаму слову, лёс якога, занядбанасць — адна з асноўных, набалелых праблем у яго творчасці: *Долі інакшай не трэба зямной, // Сэрца пагоднее ад суцяшэння: // Родная мова ступала за мной // Ад калыханкі // Да галашэння* («Долі інакшай не трэба зямной...»).

Ад маці Куліны Андрэеўны, якую паэт назваў «стыхійна вялікім філолагам», яму перадалася па спадчыне незвычайная чуйнасць да мовы бацькоў і дзядоў. Багацце вуснай народнапаэтычнай творчасці, засвоенае з дзяцінства, стала дабратворнай глебай, на якой прарасла, зарунела яркая, непаўторная творчая індывідуальнасць Р. Барадуліна.

Сведчаннем непаўторнасці яго таленту з'яўляецца перш за ўсё тое, што вершы паэта незвычайна шчодрыя на гукапіс, багатыя музычнай інструментоўкай радка. Шматлікія асанансы, алітэрацыі, унутраныя рыфмы выклікаюць слыхавыя асацыяцыі. Так, у вершы «Вясновая замалёўка на беразе Ваўчэнскага возера» перададзена салаўіная рулада. У аснове твора народнае паданне пра старога Іцку, які вёз у вёску дзёгаць, але «Чорт падскочыў, з бочкі шпунт адторкнуў». Салавей на бярозе, выводзячы замыславатую мелодыю, папярэджвае дзегцяра: *—Іцак, Іцак! // Дзёгаць выцек — // Кап, кап, // Ццюрр-руру!*

Дзякуючы адпаведным гукавым паўторам у вершах Р. Барадуліна імітуецца грукатанне грому: *Тут **бяро**зы **кар**каюць і **крах**каюць. // **Глу**хнуць ад **птушынае гурмы*** («Станцыя Грамы»), грукат колаў цягніка: *Дакладную рыфму абкатваюць **колы**: // **капыток-кіпяток**, **капыток — кі**пяток, **кі**пяток, **кі**пяток...* («Адну я знаю на ўсіх чыгунках...»).

Перавага аддаецца не «зрокавай» і «графічнай», а «слыхавой» рыфме. Паэт звяртае асаблівую ўвагу не столькі на супадзенне канцавых гукаў, колькі на пераклічку пераднаціскных складоў і на гукавыя паўторы апорных зычных: ***Лілею млявы плёс люляе***, *// З-пад **зле**жаных аб**лок**, зда**лёк** // **Ляціць віхлясты** і **бяля**вы, // Плёстак **лёгкі — матылёк*** («Матылёк»).

Унутраныя рыфмы нярэдка грунтуюцца на таўталагічным прынцыпе: ***Азарылі** неба **азярыны. Азярная зор**ная вада. Ручаёў лясных **глухія ры**ны. // І **дупла аглухлая** бяда* («У Задаброцці»). Таўталагічныя рыфмы ўзмацняюць меладычную зладжанасць вершаваных радкоў і эмацыянальную афарбоўку вобразаў: *пойня ад **салаўёў асала**велая* («Станцыя Грамы»), ***калёны клён, ясень ясны, вязкі вяз, крышыцца крушаная кру**шына, **рабой рабі**ны* («Сталасці пара»), ***асі**ны ад холаду **сінія*** («Цымбалы»), *Ходзіць **сухімі**, **імхамі імша*** («Думаеш, часта сустрэнемся там...»), ***Гром** над **Глускам** арэшкі **луск**ае* («Юрта»), ***Пашой сапе** // **Пузаты паш:** // Гарачы **трон — тры**ножнік* («Пашой сапе...»).

Р. Барадуліна нярэдка папракалі за празмернае эксперыментатарства, свавольства, гульню са словам. Асабліва ажыўленыя дыскусіі разгарэліся ў свой час вакол вершаў «Матылёк» і «Сталасці пара». Сёння, аднак, яго эксперыментатарства ўспрымаецца як сведчанне няспынных творчых пошукаў, праяў фантазіі і віртуознасці майстэрства. Такія менавіта «Балада аб клянах», дзе гукавую зладжанасць кожнай страфы падмацоўваюць адна альбо дзве перакрыжаваныя рыфмы-амонімы: *боты* (абутак) — *боты* (марскія судны), *тугою* (прыкмета прадмета) — *тугою* (душэўны стан), *у горы* (душэўны стан) — *у горы* (частка ландшафту), *стане* (дзеянне) — *стане* (размяшчэнне войска), *каркаў* (дзеянне) — *каркаў* (патыліц) і інш.: *Кляны!//Вецер голле **гне вам,**//Вам// хмарам кланяцца **варта.** // Хай полымя лісця **гневам** // Палае, //як волі **варта.***

У Р. Барадуліна можна сустрэць рыфмы-амографы: *«Абразы без абрáзы»* (назва кнігі), амафоны: *гне вам — гневам, згары — з гары, народ — на рот, ад тае — адтае* і інш. Найбольш ужывальныя рыфмы, якія адрозніваюцца несупадзеннем аднаго зычнага або галоснага гука: *пойню — помню, лепет — лепей, сучыць — сачыць, намок — намёк, грэх — арэх, маной — мной, вадзе — вядзе, бялізны — вялізны* і інш.

Паэзія Р. Барадуліна мае моцную народную аснову. У яго народнае амаль немагчыма вылучыць з індывідуальнага, так моцна сплаўлены гэтыя два пачаткі. Відаць, толькі матчыны песні, жалобныя, вясёлыя, ды прыпеўкі менш за ўсё падпадаюць пад суб'ектыўную рэвізію творцы («Мохам зязюльчыным ідуць маладзіцы...», «Кашуля Паўлюка Труса», «Полька», «Бяроза з лістам гаварыла», «Матчыны песні», «Мама», «Аблачына-самабранка» і інш.), таму ў іх найбольш адхіленняў ад усталяваных нормаў арфаэпіі і арфаграфіі. Так, для народных песень і прыпевак, якія паэт шчодра ўключае ў свае творы, асабліва характэрна зрушэнне націску, абумоўленае рытмічнай арганізацыяй радка і сугучнасцю націскных складоў: *Пасцель **пухавáя.** Вячэра **сахарнáя.** У летняй песні трава **мяккáя,** // Мядзведзь рыкае, дзевак пужае* («Матчыны песні»). У адной з гэтых песень свякроў загадала нявестцы *На моры бяліць **палатнó,** На лесе сушыць, каб было **ладнó.*** Перастаноўкі націску, узмацняючы рыфмы, дапамагаюць ствараць каларыт, уласцівы народнай мове: *Памятаю з маленства, // Як лéчылі — не калéчылі* («Хто ж цяпер»); ***Маладóсць — буйнóсць,** ста-*

*расць — кайнасць* («А выслоўе ёсць...»); ***Дурóсці** — поўныя **кóсці*** («Лазня блакаднага года») і інш.

З першых вершаў разгортваецца «індывідуальны слоўнік» (М. Стральцоў) Р. Барадуліна, асноўны пласт якога складае агульнаўжывальная, бытавая лексіка. Пацвярджаюць сказанае прамыя і пераносныя лексічныя значэнні, за кожным з якіх — пэўная старонка біяграфіі паэта і яго пакалення, на чыю долю выпала абпаленае вайной дзяцінства. З вясковага побыту прыйшлі ў яго вершы *стэарынавая свечка, жароўня, хлебнічак, скрыпачы, матчына хата* — паняцці, якія далі назву творам і ажылі ў незабыўных мастацкіх вобразах, разгортваючы панараму ваеннага і пасляваеннага жыцця нашага народа.

Дзеля стварэння метафар, параўнанняў, эпітэтаў і іншых мастацкавыяўленчых сродкаў Р. Барадулін шырока выкарыстоўвае пераноснае значэнне слоў: *Трывожны **год звінеў майму дзяцінству** // Нямецкаю трафейнаю трубой* («Труба»); *А мне **сырадоем пахне зіма** // І снег рыпіць капытамі настылымі* («Цялушка»); *Жывіцай хвойнай пахне новы дом, // І **комін папярхнуўся** першым дымам* («Восеньскае»).

Параўнанні — адзін з тропаў, характэрных для творчасці Р. Барадуліна. Яны дапамагаюць выклікаць зрокавыя і слыхавыя асацыяцыі, надаючы вобразам большую нагляднасць: *Руку аднагодак працягвае мне, // Пацiснуў я **куксу ў шрамах, бы ў разорах,** Здавалася, ў цішы **рыпела зямля,** // **На восі,— нібы на пратэзе,**— у зморы, З пустым рукавом сын вярнуўся дамоў, // А маці, **як яблыня, белая з гора*** («Палата мінёраў»).

Нечаканасць і смеласць барадулінскіх метафар дасягаецца з дапамогаю такіх жа смелых эпітэтаў: *Град **буйнакаліберны** шчапае гонту* («Арцель інвалідаў»); *Плачуць па дзецях нямецкія кулямёты **буйнакалібернымі** слязамі* («Блакада»). Удакладняюць сэнс і пашыраюць эстэтычныя магчымасці вобразаў прыдаткі: *ліст-далонь, рута-мята, дажджы-грыбасеі, жаўрукі-шаргункі* і інш.

Пасля чарнобыльскай аварыі ў вершах паэта трагічнае гучанне набывае тэма новай усенароднай бяды. Трывога і боль Чарнобыля прагучалі ўсхвалявана і напружана. Узнікла шмат нечакана парадаксальных словазлучэнняў, не сумяшчальных з жыццёвай логікай паняццяў: ***Дзеці Чарнобыля*** («Пра бацькоўства»); ***радыеактыўная бабка,*** якая *Паліць печку сваю **радыеактыўнымі дрывамі*** («Як у казцы»); ***ваўчыца чарнобыльская** не вые* («Сон»). Эпітэты напаўняюць мастацкія вобразы горкай іроніяй, роспачу. Збавенне ад бяды бачыцца ў вяртанні народу яго памяці і духоўнай спадчыны. Вось чаму побач ставяцца супярэчлівыя па сваім лексічным значэнні словы. *У цябе на слыху перагукваюцца **Радыяцыя** і **Радаўніца*** («Малітва наступнасці»). Слова *радыяцыя* ўводзіцца ў разрад агульнаўжывальнай лексікі.

Чэрпаючы з народных запасаў моўнай культуры, паэт адкрывае неабмежаваныя магчымасці словаформаў і спалучэнняў слоў, вяртае забытым словам іх першародную свежасць. Жывое маўленне барадулінскіх твораў выходзіць за рамкі ўсталяваных літаратурных канонаў. У яго аснове — словаўтваральныя асаблівасці беларускіх гаворак, ад цэнтральных да паўднёва-ўсходніх, не кажучы пра паўночна-заходнія, віцебскія, ушацкія: *кубло, лайно, гайня, ванцак, брыка, шчамель, каліва, адлега* і інш. У дзеясловах І-га спражэння 3-й асобы адзіночнага ліку замест канчатка *-е* ўжываюцца распаўсюджаныя на Віцебшчыне *-іць, -ець: Іць, як ніць, звініць якраз па-ўшацку: // Брыка едз**іць** і гудзіць **шчамель*** («У Задаброцці»); *Дома ж па мне дзеткі бядуюць, // Дзе ж наша мамка **начуець*** («Аблачынка-самабранка»); *Добра таго **лаіць**, хто сорам **маіць*** («Удакладненне да асабовага лістка па ўліку партызанскіх атрадаў»). Тут нават у інфінітыве дзеля рыфмы па аналогіі замест агульнапрынятага *-яць* пішацца *-іць*. Канчаткі *-ець, -аць* у дзеясловах 1-га спражэння 3-й асобы адзіночнага ліку, якія часам ужывае паэт, сустракаюцца і ў цэнтральных гаворках, на Міншчыне: *ідзець — штрыгік, штрыгік* («Юльянішка»); *Ёсць у мяне маладзец, ён дадому завядз**ець**...»* («Матчыны песні»). Канчаткі дзеясловаў *-ме, -меш* запазычаны з заходніх і інш. гаворак: *чакацьме* («Клічнік»), *мецьмеш* («Луска»).

Замест літаратурнага *-ф-* паэт нярэдка ўжывае па-народнаму нязмушанае *-хв-*, якое можна пачуць у розных рэгіёнах Беларусі: *хварсіць, хвартух, Стахван* і інш.

Аб featuresнабаковасці мастацкага светаўспрымання Р. Барадуліна сведчаць прафесіяналізмы, запазычаныя з розных сфер: *паранойя, камп'ютэры, дазіметры, стронцый, цэзій* і інш. У цыкле вершаў пра Нафтабуд («Інтэгралы на цэгле», «Глушцы і шматтыражка» і інш.) ужываюцца тэрміны будаўнічай прафесіі: *Гром басіць, як сярдзіты **прараб,** // І **рулетку** маланкі раскручвае.* Астранамічныя паняцці могуць нечакана ўпісвацца ў сферу марской тэрміналогіі: *Месяц — **ілюмінатар** надраены. // Неба — **трум** велізарны, // лямпачкі — зоры* («Гэта расказ пра коніка...»).

У многіх выпадках паэт звяртаецца да кніжнай лексікі: *лабараторыя, тэалогія, міфалогія, дарвінізм* і інш. Шырока разгорнуты каляндар царкоўных свят і народных традыцый вымушае ўжываць біблейскую і язычніцкаю тэрміналогію: *Дзяды, Каляды, Вялікдзень, Звеставанне, Пасніца, Бог, Пярун, Ярыла* і інш.

Як і ў жывой народнай гаворцы, у Р. Барадуліна сустракаюцца запазычанні з іншых моў — русізмы і калькі з рускай мовы: *пратаць, нятленна, убога, вуздэчка, адрогі* і інш. У матчынай малітве рускамоўныя словы захоўваюць беларускае вымаўленне: ***Сахрані** мяне, Божа, // **Адныні** давеку* («Веды»). Ёсць запазычанні з іншых моў: *сэнк'ю, адз'ю, караван-сараі, барханы* і інш. У некаторых выпадках выразы іншамоўнага паходжання захоўваюць арфаграфію мовы, з якой запазычаны: *Ојсгугпа тоја* («Адаму Міцкевічу»), «Via Lactea» (так названа нізка вершаў пра паездку на Кубу).

З дапамогай архаізмаў Р. Барадулін разгортвае дзівосны свет, у якім з пакалення ў пакаленне выхоўваліся нашы продкі: *верацяно, калаўроты, прасніца, кудзеля, кросны, ніты, куфры, цапы, памяло, ступа, таўкач, лапці, пасталы, рэзгіны, клець, фунт, асьміна* і інш.

Акрамя тэрмінаў, якія ўвайшлі ў актыўны слоўнікавы запас разам з узнікненнем новых экалагічных праблем (*смог, радыяцыя, стронцый, цэзій* і інш.), Р. Барадулін папаўняе свой індывідуальны слоўнік шматлікімі ўласнымі наватворамі, пазначанымі смеласцю, дасціпнасцю, фантазіяй. Вельмі натуральна ад назоўнікаў і прыслоўяў утвараюцца дзеясловы *нашчыць, надзеіць, ніцець, травець, курганець, шкурыць, звуглець, славяніцца, дзеўчыцца, нявесціцца, ведзьміцца* і інш. *Прысмерклі вочы, // **Скручэлі** пальцы* («Арцель інвалідаў»); ***Доль** мне, лёс, ва ўнуку паўтарыцца* («У Задаброцці»); *«Як над Вязынкай поўня **ўдавее**...»* (назва верша). Ад назоўнікаў утвараюцца новыя прыслоўі: *У Белавежы — **лосьна, язьна** ў Шчары* («Год»); ***Фанерна** гаварыць* («Мы») і інш. Р. Барадулін утварыў шмат складаных прыметнікаў: *Дзятлінка **снежнарутая*** («Дзятлінка»); ***Мройнавокія** філфакаўкі* («Дзяўчатам філфака»); ***куля-сорамунепрабіваемыя*** («А жалезныя хлопчыкі...»).

З дапамогай суфіксаў утвараюцца новыя назоўнікі: *Выгнаннік — заакіян**нік,** //Крывіцкае песні дан**нік*** («Данчык»).

Па аналогіі з агульнаўжывальнымі словамі *(свежына, ярына, чужына)* паэт утварае новыя: *палатніна, крамніна, даматканіна* і інш. Яго наватворамі можна лічыць і такія, як *нарачонка, распушчонка* і інш. Р. Барадулін вярнуў з забыцця такія шыракавядомыя зараз словы, як *неруш* і *нагбом*, што ўключаны ў актыўны слоўнікавы запас нашай мовы.

Першародную свежасць вяртае паэт і такім словам, як *цвяліць, нашчыць: **Цвеліцца** з даверу здрада* («Ні дакорам, ні папрокам...»); *А частушка **цвеліцца** па-дзіцячы*

(«Дзед»); ***Абнашчыць** бы небам пагляд* («Вярнуцца б»); *Гэтай вёскай **нашчуся** і разгайляюся* («Старэю ў горадзе») і інш.

У Р. Барадуліна нярэдка можна сустрэць характэрныя для гутарковай мовы таўталагічныя звароты: *лізалі лізма, вучыць вучонага* («Мы») і інш. Яны ўжываюцца для ўзмацнення дзеяння.

Эстэтычную сутнасць мастацкага вобраза дапамагаюць выявіць фразеалагізмы: *Грыбоў — **хоць закладай касу,** // І ўжо арэхі палыселі* («Ліст з дому»); ***Цішэй вады,** // **Ніжэй травы** — // Ад слоў да ісціны далёка* («Цішэй вады...»); ***Галасіць бабрамі** па роднай мове* («Дазвол»); *Аж **ідуць упрысядкі насы*** («Насціна кухня»); ***Распяць на крыжы*** («Беларусь на крыжы») і інш. Нярэдка назіраецца размыванне ўнутранай структуры фразеалагізмаў, бо нават ва ўстойлівыя звароты паэт часам уносіць сваё адценне: *Сон той край, // ...Дзе **не сходзіцца свет на клін*** («Сны»); ***Пускалі ў вочы** досыць **дыму!*** («Паэты»); *Мы, беларусы, // Мы — народ такі, // Што **з краю** небяспекі **нашы хаты*** («Мы больш сваёй ахвярнасцю вядомы...») і інш.

Многія з барадулінскіх праслоўяў набываюць крылатасць, становяцца афарызмамі: *«Трэба дома бываць часцей»* (назва верша); *Асацыяцый караваны // Па ўсіх радках накіраваны* («Паэты»); *Вучыць не трэба маладых, // Ні лашчыць, ні даваць пад дых* («Вучыць не трэба маладых») і інш.

Як і ў народнай мове, у Р. Барадуліна можна сустрэць памяншальна-ласкальныя формы прыметнікаў і назоўнікаў: *пярсценькі, бялюткая, тоненькая лісцінацка, легейка, качачка, дрыготкая шапацінaчка, халадок, веташок, жвірынкі, ахвотку, халерынка, вар'яцінка, сабачынка* і інш.

У прыметніках жаночага роду адзіночнага ліку ў родным склоне ўжываюцца канчаткі *-ае, -ое*, якія надаюць самабытнасць гучанню: *крывіцк**ае** песні, птушын**ае** гурмы, званы свят**ое** Сафеі* і інш.

Р. Барадулін уключае ў свае творы шмат прастамоўяў, зніжанай лексікі, слоў з эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай: *выжлы, віжы, чмур, паляруш, апранаха, дзяга, зеўраюць, шэжыцца, валачы, кірзачы, прычандалле, хваробішча, хваробіца.* З гутарковай мовы ўзяты і іншыя словы і формы: *унаначкі, балазе, надоечы, меней, лепей* і інш.

Сінтаксіс паэта далёка не аднастайны. Ёсць сказы з прамым парадкам слоў, але для большасці характэрны адваротны, калі дзейнік стаіць пасля выказніка або дапаўнення ці акалічнасці: *Не выйшаў ты і гэты раз // Мяне спаткаць, паднесці рэчы* («Бацьку»); *Цягне маўклівасці як // Бочку — // Вадзе не праліцца* («Самота паломніцтва»). Сустракаюцца і безасабовыя, бяздзейнікавыя сказы.

Інверсія становіцца адным з асноўных сінтаксічных і стылістычных прыёмаў. Перавага аддаецца адмаўленню ад звыклага парадку слоў, іх перастаноўцы дзеля ўзмацнення выразнасці паэтычнай мовы. Словы, на якіх акцэнтуецца ўвага, выдзяляюцца інтанацыйна і графічна, асобным радком: *Дзяліць не трэба маладых // На гнедых, // Шэрых, // На рудых, — // Абы яны былі з вачыма, // Дзе дзёрзкасць і непрымірэнне, // Нібыта ў першы дзень тварэння...* («Вучыць не трэба маладых...»).

Раскаваныя гутарковыя інтанацыі, рытмічныя пераносы акцэнтаванага слова ў асобны радок, паўзы, безасабовыя сказы і інш. выяўляюць неспакойны тэмперамент паэта, імпульсіўнасць творчай натуры, здольнай імгненна рэагаваць на розныя з'явы ў грамадскім жыцці.

Стыль Р. Барадуліна вызначаецца прадметным, рэалістычным канкрэтным светаўспрыманнем, не пазбаўленым, аднак, абстрактна-рамантычнага бачання рэчаіснасці. На сумежжы гэтых дзвюх плыней створаны яго лепшыя ўзоры лірыкі і публіцыстыкі. Творы яго напоўнены палымянай публіцыстычнасцю, асабліва тыя, у якіх ставяцца праблемы Чарнобыля, нацыянальнага адраджэння і бездухоўнасці ў грамадстве. Вершы і паэмы Р. Барадуліна з'яўляюцца важкім укладам у развіццё беларускай мовы і культуры. *Л. М. Гарэлік.*

## БАРКАЛАБАЎСКІ ЛЕТАПІС

*Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах, // Свой век канчае ён у манастырскіх мурах. // Тут ціша, тут спакой,— ні шуму, ні клапот. // Ён пільна летапіс чацвёрты піша год // І спісвае усё ад слова і да слова // З дайнейшых граматак пра долю Магілёва.* Максім Багдановіч у вершы «Летапісец» меў, відаць, на ўвазе аўтара Баркалабаўскага летапісу, які якраз і пачынае летапіс з апавядання пра заснаванне Магілёва. Існуе разнабой у назве летапісу. Па імені заснавальніка вёскі Баркулаба Корсака ён называўся Баркулабаўскім. Паколькі пісьмовыя помнікі звычайна называюцца паводле месца напісання, а вёска мела назву Баркалабава (у тэксце «Баркалабовъ»), то і называць яго правільней Баркалабаўскім (цяпер в. Баркалабава ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці). Помнік лічыцца летапісам умоўна (яго называюць яшчэ і хронікай), бо побач з традыцыйным для такога жанру паслядоўным выкладам падзей з яго старонак паўстае вобраз самога аўтара з яго пачуццямі, патрэбамі, імкненнямі, з тагачасным бытам.

Аўтар дакладна невядомы. Абарона ім праваслаўя, негатыўныя адносіны да каталіцызму і уніі, добрае веданне царкоўнага календара, акуратная рэгістрацыя дат нараджэння, смерці, вяселляў у сям'і баркалабаўскіх паноў даюць падставу меркаваць, што, прынамсі, большая частка летапісу напісана свяшчэннікам Баркалабаўскай царквы Фёдарам Піліпавічам Магілёўцам, імя якога часта ўпамінаецца ў тэксце (летапісцы маглі пісаць пра сябе ў трэцяй асобе). Існуе думка, што аўтарам мог быць і дзяк або псаломшчык гэтай царквы.

У летапісе апісваюцца падзеі, якія адбыліся ў канцы 16 — пачатку 17 ст. пераважна на Магілёўшчыне — у сяле і замку Баркалабаве, Быхаве, Магілёве, у некаторых іншых мясцовасцях Беларусі. Храналагічна ён ахоплівае 1545—1608 гг. Асноўную ўвагу аўтар звяртае на падзеі мясцовага жыцця, сведкам большасці якіх ён быў, што робіць твор надзвычай цікавым. Замалёўкі вясковага жыцця чытаюцца, як мастацкая літаратура: *Того ж року 1601 месяца октобра десятого дня целую неделю снег силний и гвалтовный ишол, выпал до полголени, также и буря сильная была. Тогды пшеницы-ярицы, овес, гречиху, горохи и вси овощы, великое множество ярицы на полях непожатые, также и копы жатые снегом позаметала метелица, иж было жалосно и страшно гледети и выповедити уздыханя и плачу людей убогих пашников немаетных. А потом почали жати-гороватн по снегу у стужу. Были теж морозы великие, огне клали, сами грелися, иж страшно и жалосно было гледети: три-два человеки на день ледве снопов 40 нажнут, овса албо ярицы, бо вельми к земли. А которые молотили ярь, зерня только знак. А коли змелет, спечет, то у печи испечется, а з лопаты у печ не зложит, с печи аж ополоником выберет. А коли муку житную у хлебе спекут, то тесто печеное солодко, а за скорину хотя ложки клади.* Аўтар жыва і эмацыянальна апавядае пра страшны голад, які быў на Беларусі ў пачатку 17 ст. ад засухі: *Так мерли одны пры местах, на вулицах, по дорогах, по лесах, на пустыни, при роспутиях, на пустых избах, по гумнах померли. Отец сына, сын отца, матка детки, детки матку, муж жену, жена мужа, покинувши детки свои, розно по местах, по селах розышлися, один другого покидали, не ведаючи один о другом. Мало не вси померли. А коли тот наход у ворот, албо в дому у кого стоячи, хлеба просили, отец з сыном, сын со отцем, матка з дочкою, дочка з маткою, брат з братом, сестра з сестрою, муж з жоною, тыми словы мовили, силне, слезне, горко мовили так: «матухно, зезулюхно, утухно, панюшко, сподариня, солнце, месяц, звездухно, дай крошку хлеба!» Тут же подле ворот будет стояти з раня до обеда и до полудня, так-то*

*просячи, там же другий под плотом и умрет.* Малюючы быт «людей убогих, пашников неметных», аўтар спачувае ім, аднак не імкнецца высветліць прычыны іх цяжкага жыцця.

З іншых падзей грамадска-палітычнага жыцця аўтар апавядае пра тыя, што мелі месца ў Польшчы і Маскоўскай дзяржаве, аб польскай інтэрвенцыі ў Расію, з'яўленні I і II Ілжэдзмітрыяў. Летапіс уваходзіць у рукапісны зборнік, які ўключае яшчэ запісы малітваў, «Апісанне сабору ў Бярэсці» (Брэсцкага царкоўнага сабору 1596 г.), дзяржаўныя дакументы, пісьмы, урыўкі запісаў летапіснага характару.

На мове летапісу адбілася, з аднаго боку, адукаванасць аўтара, з другога — яго жыццё сярод простага народа, якое дазваляла засвойваць нормы жывой беларускай мовы таго часу.

На правапіс жывая мова ўплывала слаба. Затое ў фанетыцы яе ўплыў адчувальны: тут часцей, чым у многіх іншых старабеларускіх пісьмовых помніках, перадаецца аканне (*село гарбовичи, село радивонковичи, безыменнаму*), пераход *у* ў *ў* (графічна *в: побив град*), *и* пасля шыпячых, што не адпавядала норме жывой мовы (*уши, жита, едучи*), *п, х* на месцы *ф* (*пилипа, огапья, сопъя, хилимон*), прыстаўное *в* (*до восени, на вулицах*). У галіне марфалогіі назоўнікі мужчынскага роду з чыстай асновай у родным склоне адзіночнага ліку побач з канчаткам *-а* (назвы асоб, жывых істот, канкрэтных прадметаў, геаграфічных паняццяў, месяцаў): *мужа, князя, ивана, короля, августа, до вечера, до менска*) часта атрымліваюць і канчатак *-у* (назоўнікі зборныя, рэчыўныя, аддзеяслоўныя, абстрактныя, якія абазначаюць назвы з'яў прыроды: *трупу московского, меду пресного, без закону, дожду мало, з морозу*), што вельмі блізка да жывой беларускай мовы; у давальным склоне гэтыя назоўнікі ў летапісе ў адрозненне ад многіх іншых старабеларускіх помнікаў маюць канчатак *-у/-ю: андрею, королю, полоцку, не по обычаю.* Ужываецца ўсходнеславянскі асабовы займеннік *я*, кароткая форма зваротнага займенніка *ся* часта ўжываецца перад дзеясловам, да якога адносіцца: *я... сама ся на то позволила.* Прыметнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку побач з усходнеславянскім канчаткам *-ого/-его* (*бортного, нагого, ближнего, конного, пешого, пресного*) часам маюць і ненаціскны канчатак *-аго/-яго*, характэрны для традыцыйнай царкоўнаславянскай арфаграфіі, што тлумачыцца прыналежнасцю аўтара да духоўных асоб (*новаго, онаго, силнаго, шведскаго*); у жаночым родзе пераважае двухскладовы канчатак *-ое*, які захоўваецца цяпер у паэзіі і фальклоры (*боркулабовское,*



**Баркалабаўскі летапіс (старонка). 17 ст.**

*днепровое, кислое, московское*), часам сустракаецца і новы, уласцівы жывой мове аднаскладовы канчатак *-ой/-ей* (*з волости боркулабовской и шупенской, з ласки божей*), а таксама ў царкоўнаславянскіх і кніжных словах канчатак *-ыя/-ия* (*святыя богородицы, у церкви святыя пречистыя, до науки латинския*). Усе формы дзеясловаў прошлага часу ўжываюцца без дзеяслоўнай звязкі *есми*, пашыранай у многіх іншых тагачасных пісьмовых помніках. У летапісе шырока адлюстравалася лексіка жывой народнай мовы (назвы з'яў прыроды: *перуны и грады великие, гром гримев увосень, снег, дожд, буря, метелица, морозы, гололедица, ковзота, студень*; назвы раслін і палявых работ: *жито, гречиха, овес, пшеница, ярь, ярица, ячмени, збоже, ботвинье, цибуля, маки, горохи, косили, жали, молотили, ляда увосень палили*; назвы страў і прадуктаў: *хлеба просили, коли муку житнюю у хлебе спекут, то тесто печеное солодко, дай ложечку дитятку варивца сырого, капусты ведро кислое, рыб вялых, меду пресного*; назвы хатніх жывёл, дзікіх звяроў: *коня застрелили, яловиц полтораста, кобанов 50, куров 500, лосей, вепров, жеребя волк заев, много псов*). Пры апісанні падзей рэлігійнага жыцця ўжываюцца царкоўнаславянізмы (*посвящен бысть храм великомученика георгия, службы божественныя везати*); там, дзе апавядаецца пра падзеі ў Польшчы, сустракаюцца паланізмы (*кроль* — кароль, *жолнере* — салдаты, *зацный* — высакародны, *мешкати* — пражываць); сустракаюцца ўкраінізмы (*чоснiку, лысты, зымовал, сыпалы*). Перапісаны беларуска-ўкраінскім скорапісам, магчыма, украінцамі па паходжанні. Імі маглі быць манахі аднаго з бліжэйшых манастыроў на Магілёўшчыне, магчыма, Куцеінскага пад Оршай. Уцякаючы ў 1670-я гады ад праследаванняў з боку Польскай дзяржавы, яны вывезлі спіс у Маскву. Зберагаецца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве (сінадальны збор № 790).

Летапіс упершыню апублікаваны ў 1877 г. украінскім вучоным П. А. Кулішам. Апісаныя ў ім звесткі ўпершыню былі выкарыстаны ў «Гісторыі Расіі са старажытнага часу» С. М. Салаўёва і нарысах «Смутнага часу Маскоўскай дзяржавы ў пачатку XVII стагоддзя» М. І. Кастамарава; яго вывучалі М. В. Доўнар-Запольскі, Е. Р. Раманаў, А. М. Мальцаў, А. Ф. Коршунаў, Н. Т. Вайтовіч, ім

карыстаюцца пры вывучэнні гісторыі Беларусі 16—17 ст.

*Публ.:* Полн. собр. рус. летописей. Т. 32. М., 1975; Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.

*Літ.:* Вайтовіч Н. Т. Баркалабаўскі летапіс. Мн., 1977; Яе ж. Народная аснова лексікі Баркалабаўскага летапісу // Бел. лінгвістыка. Мн., 1974. Вып. 6. *У. М. Свяжынскі.*

## БАРКОЎСКІ ВІКТАР ІВАНАВІЧ

Рускі мовазнавец В. І. Баркоўскі нарадзіўся 18 студзеня 1900 г. ў Мінску. Акадэмік АН СССР (1972, член-карэспандэнт з 1958), доктар філалагічных навук (1950), прафесар (1930). Замежны член Германскай АН у Берліне (1969), член-карэспандэнт Акадэміі навук і літаратуры ў Майнцы (ФРГ, 1969), ганаровы доктар філасофіі універсітэта імя Гумбальта (Берлін, 1967). У 1923 г. скончыў Петраградскі універсітэт. У 1930—50 гг. працаваў загадчыкам мовазнаўчых кафедраў Магілёўскага, Наўгародскага, Мікалаеўскага, Крымскага, Яраслаўскага педагагічных інстытутаў і Львоўскага універсітэта. З 1950 г. ў Інстытуце мовазнаўства АН СССР (у 1954—60 гг.—дырэктар). З 1960 г. загадчык сектара параўнальна-гістарычнага вывучэння ўсходнеславянскіх моў Інстытута рускай мовы АН СССР. Галоўны рэдактар часопісаў «Русский язык в школе» (1950—53), «Русская речь» (1967—78). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР 1970 г. (разам з А. У. Арцыхоўскім) за даследаванне і публікацыю наўгародскіх берасцяных грамат. Памёр 26 снежня 1982 г.

В. І. Баркоўскі даследаваў старажытнарускае пісьменства, гістарычную граматыку, параўнальна-гістарычны сінтаксіс і дыялекталогію ўсходнеславянскіх моў, гісторыю айчыннага мовазнаўства. У 1930-я гады ён выступаў па пытаннях рэформы беларускага правапісу. Багаты фактычны матэрыял старой беларускай мовы ён выкарыстаў і прааналізаваў у працах па гістарычна-параўнальным сінтаксісе ўсходнеславянскіх моў. Шэраг навукова-біяграфічных артыкулаў прысвяціў акадэміку Я. Ф. Карскаму, рэдагаваў яго манаграфію «Беларусы» (вып. 1—3. 2 выд. 1955—56), «Працы па беларускай і іншых славянскіх мовах» (1962). Манаграфія «Сінтаксіс казак: Руска-беларускія паралелі» (1981) прысвечана параўнальнаму вывучэнню сінтаксічных сістэм рускай і беларускай моў.

*Тв.:* Бойкі на мовазнаўчым фронце (Даклад у Ін-це мовазнаўства БАН 5 лют. 1931 г.) // Полымя. 1931. № 3; Рэформа пунктуацыі ў праекце беларускага правапісу, распрацаванага правапіснай камісіяй БАН (1930 г.) // Камуністычнае выхаванне. 1931. № 10—11; Разработка советскими учёными вопросов исторической грамматики и диалектологии восточнославянских языков: (В послевоен. годы) М., 1955; Академик Е. Ф. Карский: (Биогр. справка); Список главнейших печатных трудов акад. Е. Ф. Карского // Карский Е. Ф. Белорусы: Язык белорусского народа. Вып. 1. Исторический очерк звуков белорусского языка. М., 1955; Изучение украинского и белорусского языков. М., 1958 (разам з І. К. Беладзедам, П. І. Гарэцкім); Использование диалектных данных в трудах по историческому синтаксису восточнославянских языков. М., 1958; Сравнительно-исторический синтаксис восточнославянских языков. [Ч. 1—3]. М., 1968—73.

*Літ.:* Список печатных трудов В. И. Борковского // Проблемы истории и диалектологии славянских языков. М., 1971; Филин Ф. П. В. І. Борковский // Изв. АН СССР. Сер. лит. и языка. 1980. Т. 39. Вып. 1. *І. К. Германовіч.*

## БАРТАШЭВІЧ АЛЬБЕРТ ІОСІФАВІЧ

Польскі мовазнавец А. І. Барташэвіч нарадзіўся 2 жніўня 1942 г. ў в. Раёўшчына Стаўбцоўскага раёна. У 1964 г. скончыў філалагічны факультэт Вроцлаўскага універсітэта. Працаваў у педінстытуце ў Аполі (1964—68), у Пазнанскім універсітэце імя А. Міцкевіча (1968—73) дацэнтам, загадчыкам кафедры рускай мовы і дэканам філалагічнага факультэта Варшаўскага універсітэта (1975—87). З 1987 г. загадчык кафедры рускай мовы, дацэнт аддзялення беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і дырэктар Варшаўскага філіяла Інстытута рускай мовы імя А. С. Пушкіна ў Маскве. З 1992 г. прафесар кафедры рускай мовы педінстытута ў Аполі.

У 1972 г. Барташэвіч абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Гісторыя суфіксальнай субстантыўнай дэрывацыі назоўнікаў у рускай літаратурнай мове». Даследуе польскую, рускую, беларускую мовы, агульнае мовазнаўства. На аснове «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1—5. Мн., 1977—84) з І. Камендацкай склаў першы ў беларускім мовазнаўстве «Адваротны слоўнік сучаснай беларускай мовы» (т. 1—4. Варшава, 1988—89), які ўключае каля 98 тысяч слоў, пры якіх змешчаны паказчыкі іх стылістычных і лексічных варыянтаў. Слоўнік з'яўляецца каштоўным дапаможнікам для вывучэння суфіксальнага словаўтварэння, пры даследаванні некаторых заканамернасцей, звязаных з фанетычнай будовай канца слова, дае звесткі пра магчымыя канчаткі словаформ і іх колькасную суадноснасць, а таксама пра сувязь з марфалагічным складам слова.

**А. Барташэвіч, І. Камендацкая. «Адваротны слоўнік сучаснай беларускай мовы» (вокладка). Т. 1. 1988.**

*Тв.:* Суффиксальное словообразование существительных в русском языке новейшей эпохи (на материале новообразований после 1940 г.). Познань, 1970; Очерки исторической фонетики и морфологии русского языка. Варшава, 1988 (з К. Гаршковай і Г. Хабургаевым); Zagadnienia ewolucji wsrólczesnego języka rosyjskiego. Warszawa, 1987; К определению понятия продуктивности — непродуктивности в словообразовании // Biuletyn Fonograficzny (Warszawa; Poznań). 1973. № 14; К вопросу о членимости и статусе вычленения отрезков слова // Linguistica Sileziana, I. Katowice, 1975; Rewolucja naukowo-techniczna a język // Przegląd Humanistyczny (Warszawa). 1979. № 23/8; О преемственности в развитии языка // Lingua Posnaniensis (Warszawa; Poznań). 1980. № 23; On Vacłaŭ Łastoŭski's Historyja biełaruskaj (kryŭskaj) knihi // The Journal of Byelorussian Studies. London, 1984. Vol. 5, N 3—4; Czasowniki wielopierwias-

tkowe w języku polskim, rosyjskiem i białoruskim // Z polskich studiów slawistycznych. Językoznawstwo. Ser. 7. Prace na X Międzynarodowy Kongres Slawistów w Sofii 1988. Warszawa, 1988. *А. С. Аксамітаў.*

## БАХАНЬКОЎ АРЦЕМ ЯФІМАВІЧ



Беларускі мовазнавец А. Я. Баханькоў нарадзіўся 29 студзеня 1924 г. ў в. Саламір'е Полацкага раёна. У 1955 г. скончыў Мінскі педінстытут. Доктар філалагічных навук (1986). У 1960—92 гг. у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, з 1992 г. загадчык кафедры беларускай мовы пры Прэзідыуме АН Беларусі. Аўтар навуковых прац па лексіцы, дыялекталогіі, гісторыі беларускай мовы. У манаграфіі «Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд: Сацыялінгвістычны нарыс» (1982) прааналізаваў сацыяльна-эканамічныя і культурна-гістарычныя ўмовы, у якіх адбывалася фарміраванне беларускай нацыі, паказаў залежнасць змяненняў у лексіцы ад сацыяльных і ўнутрымоўных фактараў, даследаваў крыніцы і шляхі ўзбагачэння лексікі новымі словамі: асваенне літаратурнай мовай лексічных багаццяў народных гаворак, выкарыстанне словаўтваральных і семантычных неалагізмаў, ажыўленне ўстарэлых слоў і запазычванне з іншых моў.

А. Я. Баханькоў плённа працуе ў галіне лексікаграфіі. Ён прымаў удзел у стварэнні 5-томнага Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы (1977—84) у якасці ўкладальніка, члена рэдкалегіі і рэдактара 2-га тома. Сааўтар манаграфіі «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (1970), «Беларуска-рускага слоўніка» (т. 1—2; 1988—89), а таксама прызначаных для сярэдняй школы «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (1966; 4 выд. 1990) і «Тлумачальнага слоўніка рускай мовы» (1975; 2 выд. 1985).

*Тв.:* Складаназалежныя сказы з даданымі азначальнымі ў паўднёва-заходніх беларускіх гаворках // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1960. № 4; Складаназалежныя сказы з даданымі дзейнікавымі, выказнікавымі і месца ў паўднёва-заходніх беларускіх гаворках // Тамсама. 1961. № 1; Складаназалежныя сказы з даданымі ўмовы ў паўднёва-заходніх беларускіх гаворках // Тамсама. 1961. № 2; Складаназалежныя сказы з даданымі часу // Тамсама. 1962. № 4; Складаназалежныя сказы з даданымі дапаўняльнымі ў паўднёва-заходніх беларускіх гаворках // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1961. Вып. 8; Сінтаксіс скарынінскіх выданняў // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; Прычынны злучнік «бо»: На матэрыяле паўднёва-заходніх гаворак // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972. *І. К. Германовіч.*

## БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

Беларусізацыя — палітыка Кампартыі і ўрада БССР у 1920 — пачатку 1930-х гадоў, накіраваная на заканадаўчае замацаванне за беларускай мовай функцый дзяржаўнай мовы (перавод на беларускую мову дзейнасці дзяржаўных, партыйных і грамадскіх устаноў і іх справаводства), пераход на беларускую мову навучання і выхавання ў большасці школ, дашкольных устаноў, вышэйшай і сярэдняй прафесійнай адукацыі, павелічэнне яе ролі ў галіне культуры, друку, сацыяльна-бытавога абслугоўвання, армейскай службы, дзяржаўнай і кааператыўнай дзейнасці пры адначасовай гарантыі іншым народам Беларусі права на карыстанне іх роднай мовай ва ўсіх сферах грамадска-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця. У шырокім сэнсе слова пад беларусізацыяй, як адзначалася ў афіцыйным дакуменце Нацыянальнай камісіі ЦВК БССР, «належыць разумець: 1) развіццё беларускай культуры (школа, вышэйшыя навучальныя ўстановы на беларускай мове, беларуская літаратура, выданне беларускіх кнігаў, навукова-даследчая праца па ўсебаковаму вывучэнню Беларусі і г. д.); 2) вылучэнне беларусаў на партыйную, савецкую, прафесіянальную і грамадскую працу; 3) перавод працы партыйнага, дзяржаўнага, прафесіянальнага і кааператыўнага апаратаў і часцей Чырвонай Арміі на беларускую мову» (Практычнае вырашэнне нацыянальнага пытання ў БССР. Ч. 1. Беларусізацыя. Мн., 1928. С. 9—10).

Погляд на родную мову як фундаментальную духоўную каштоўнасць народа, што арганічна далучае яго да сусветнай культуры, стаў рэалізавацца пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў выніку ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі. Усталяванне гэтага погляду на Беларусі садзейнічала адраджэнню беларускай літаратурнай мовы, выхаванню нацыянальнай свядомасці народа і яго нацыянальнаму самавызначэнню. Праграма беларусізацыі на Беларусі была важкім паказчыкам рэалізацыі праграмы дэмакратызацыі краіны і стварэння Саюза ССР.

Ініцыятарамі беларусізацыі былі творчая і навуковая інтэлігенцыя (Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, М. Гарэцкі, У. Ігнатоўскі), тагачасныя кіраўнікі ЦВК і СНК БССР (А. Чарвякоў, Я. Адамовіч і інш.). II Усебеларускі з'езд Саветаў (снежань 1920 г.) падкрэсліваў, што савецкая ўлада дала працоўным усіх нацыянальнасцей магчымасць развіваць іх культуру на роднай мове. У рэзалюцыі ЦВК БССР аб развіцці народнай асветы ў рэспубліцы (люты 1921 г.) адзначалася: «Пацвярджаючы дэкрэт Саўнаркому Літбела ад 1919 г. аб поўнай раўнапраўнасці ўсіх мясцовых моваў, якімі ў межах ССРБ прызнаюцца мовы: беларуская, расійская, яўрэйская і польская... ЦВК Беларусі прапануе Наркамасветы зрабіць захады да ўзмацнення працы на мове пераважнай большасці працоўнага сялянства Беларусі — мове беларускай. Наркамасветы павінен у сваёй працы зыходзіць з няўхільнай перспектывы планавага і паступовага пераходу ўстаноў, у якіх вучацца і выхоўваюцца дзеці-беларусы, на іх матчыную беларускую мову выкладання» (тамсама, С. 128, 131—132). Аднačасова ЦВК БССР даручыў падрыхтаваць адпаведныя падручнікі, асігнаваў 10 млн. рублёў на стварэнне Цэнтральнай Беларускай бібліятэкі, звярнуўся з хадайніцтвам да Наркамасветы РСФСР адкамандзіраваць у БССР настаўнікаў — ураджэнцаў Беларусі і апублікаваў адозву да іх з просьбай уключыцца ў культурнае адраджэнне сваёй радзімы.

У рэзалюцыі X з'езда РКП(б) «Аб чарговых задачах партыі ў нацыянальным пытанні» (8—16.3.1921 г.) ставілася задача дапамагчы народам, якія ва ўмовах царызму не мелі магчымасці для ўсебаковага развіцця сваёй культуры, дабіцца фактычнага раўнапраўя, каб: «а) развіць і ўмацаваць у сябе савецкую дзяржаўнасць у формах, адпаведных нацыянальна-бытавым умовам гэтых народаў; б) развіць і ўмацаваць у сябе адзейнічаючыя на роднай мове суд, адміністрацыю, органы гаспадаркі, органы ўлады, складзеныя з людзей мясцовых, ведаючых быт і псіхалогію мясцовага насельніцтва; в) развіць у сябе прэсу, школу, тэатр, клубную справу і наогул культурна-асветныя ўстановы на роднай мове» (Нацыянальнае пытанне: Зб. Мн., 1932. С. 225—226).

Моўна-нацыянальная палітыка ў

1920-я гады грунтавалася на стратэгіі гарманізацыі нацыянальных адносін у СССР, абгрунтаванай у запісцы У. І. Леніна ад 30—31.12.1922 г. Цэнтральнаму Камітэту і XII з'езду РКП(б) «Да пытання аб нацыянальнасцях або пра «аўтанамізацыю». Сутнасць усталявання гарманічных узаемаадносін паміж усімі нацыямі, народамі і нацыянальнымі мовамі заключалася ў тым, каб не абмяжоўвацца фармальным раўнапраўем народаў саюзнай дзяржавы, а стварыць умовы для фактычнага ажыццяўлення гэтага права. У. І. Ленін выказаўся супраць абстрактнай пастаноўкі пытання пра нацыяналізм. Гаворачы пра нацыянальныя пачуцці былых прыгнечаных або «малых» народаў, ён пісаў: «Мы, нацыяналы вялікай нацыі, аказваемся вінаватымі ў бясконцай колькасці насілля, і нават больш таго — непрыкметна для сябе робім бясконцую колькасць насілляў і зняваг... Таму інтэрнацыяналізм з боку прыгнятаючай або так званай «вялікай» нацыі ... павінен заключацца не толькі ў захаванні фармальнай роўнасці нацый, але і ў такой няроўнасці, якая пакрывала б з боку нацыі прыгнятаючай, нацыі вялікай, тую няроўнасць, якая складваецца ў жыцці фактычна. Хто не зразумеў гэтага, той не зразумеў сапраўды пралетарскіх адносін да нацыянальнага пытання, той застаўся, па сутнасці, на пункце погляду дробнабуржуазным і таму не можа не скочвацца штохвілінна да буржуазнага пункту гледжання» (Ленін У. І. Поўны зб. тв. Т. 45. С. 359). Ён стаяў за канкрэтныя гарантыі «адносна ўжывання нацыянальнай мовы ў іншанацыянальных рэспубліках, якія ўваходзяць у наш саюз», бо якраз тут «будзе пранікаць мноства злоўжыванняў» (тамсама. С. 361).

У аснове палітыкі беларусізацыі быў кампраміс паміж т. зв. «пралетарскім інтэрнацыяналізмам» камуністычнай партыі і беларускім адраджэнскім рухам, мэта якога — нацыянальнае самавызначэнне і суверэнітэт Беларусі. Гэта сацыяльная неаднароднасць беларусізацыі як звяна агульнай палітыкі «карэнізацыі» грамадска-культурнага жыцця «нярускіх» савецкіх рэспублік стала прычынай антаганістычнага канфлікту, які ў канцы 1920 — пачатку 1930-х гг. закончыўся падаўленнем і часткова фізічным знішчэннем носьбітаў адраджэнскіх ідэалаў. Для бальшавіцкага «цэнтра» беларусізацыя, украінізацыя і аналагічная палітыка ў неславянскіх рэспубліках была тактычным манеўрам, накіраваным на «змычку» горада з вёскай, заваяванне даверу карэннага нацыянальнага насельніцтва, пераважна сялянства, яго мабілізацыі на «сацыялістычнае будаўніцтва». А для беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, ідэолагаў нацыянальнага адраджэння яна бачылася як канчатковая мэта, звяно ў агульным руху нацыі да сацыяльна-палітычнага і культурнанацыянальнага самавызначэння. Для бальшавікоў-інтэрнацыяналістаў «карэнізацыя» (у тым ліку беларусізацыя) была тым жа «нэпам» у галіне культуры, г. зн. пераходным этапам да зліцця моў і нацый у гістарычнай перспектыве. Для нацыянальных адраджэнцаў гэтае «зліццё» ў канкрэтных гістарычных умовах і сацыяльнапалітычных структурах СССР было татальнай русіфікацыяй. Гэтыя супярэчнасці ўрэшце абумовілі няўдачу беларусізацыі і трагічны лёс тых, хто яе ўвасабляў.

У рэзалюцыі XII з'езда РКП(б) (17—25.4.1923 г.) адзначалася: «Становішча ў радзе нацыянальных рэспублік (Украіна, Беларусь, Азербайджан, Туркестан) ускладняецца тым, што значная частка рабочага класа, які з'яўляецца асноўнай апорай савецкай улады, належыць да велікарускай нацыянальнасці. У гэтых раёнах змычка паміж горадам і вёскай, рабочым класам і сялянствам сустракае вельмі вялікія перашкоды ў перажытках велікарускага шавінізму як у партыйных, так і ў савецкіх органах. У гэтых умовах гутаркі аб перавалжнасці рускай культуры і высоўванне палажэння аб няўхільнасці перамогі больш высокай рускай культуры... з'яўляецца нічым іншым, як спробаю замацаваць панаванне велікарускай нацыянальнасці» (Нацыянальнае пытанне: Зб. Мн., 1932. С. 233). У рэзалюцыі з'езда звярталася ўвага на тое, каб органы кіравання ў нацыянальных рэспубліках і абласцях фарміраваліся пераважна з людзей мясцовых, якія ведаюць мову і побыт адпаведных народаў. З'езд рэкамендаваў падрыхтаваць «спецыяльныя законы, якія забяспечваюць ужыванне роднай мовы ва ўсіх дзяржаўных органах і ва ўсіх установах» (тамсама. С. 237). Сярод пунктаў рэзалюцыі 6-й нарады ЦК РКП(б) з адказнымі работнікамі нацыянальных рэспублік і абласцей (9 — 12.6.1923 г.) было патрабаванне «аб паступовым увядзенні ў справаводства парткомаў і савецкіх устаноў мясцовых моў...», прычым асаблівая ўвага звярталася «на правядзенне гэтай меры на Украіне, Азербайджане, Беларусі, Туркестане...» Асобным пунктам было запісана: «Ва ўсіх без выключэнняў навучальных установах нацрэспублік і абласцей увесці мову нацыянальнай большасці як абавязковую дысцыпліну» (тамсама. С. 245, 251).

Агульная праграма беларусізацыі і адраджэння беларускай культуры была зацверджана XII Усебеларускай партканферэнцыяй (сакавік 1923 г.) у комплексе з іншымі задачамі дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва. Ставілася задача — дамовіцца з РСФСР аб далучэнні да БССР раёнаў, якія яшчэ не ўвайшлі ў склад Беларусі, дэцэнтралізаваць кіраўніцтва ўсімі галінамі прамысловасці мясцовага значэння, узмацніць культурна-асветніцкую працу на родных (беларускай, яўрэйскай і польскай) мовах народаў рэспублікі, звярнуўшы асаблівую ўвагу на развіццё «задушанай царызмам беларускай культуры» (Практычнае вырашэнне нацыянальнага пытання ў БССР. Ч. 1. Беларусізацыя. Мн., 1928. С. 91—94). У ліпені 1924 г. Пленум ЦК КП(б)Б прыняў рэзалюцыю «Аб праграме работ па правядзенні нацыянальнай палітыкі партыі ў Беларусі». У ёй падкрэслівалася, што ў мэтах выканання рашэнняў XII партыйнага з'езда ЦК КП(б)Б лічыць неабходным зацвердзіць мерапрыемствы, якія гарантавалі б насельніцтву карыстанне роднай мовай ва ўсіх установах і арганізацыях. Беларуская мова аб'яўлялася пераважнай у зносінах паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі рэспублікі як мова асноўнай колькасці насельніцтва беларускай нацыянальнасці пры адначасовай гарантыі раўнапраўя іншым мовам яе насельніцтва. У рэзалюцыі падкрэслівалася неабходнасць стварыць спрыяльныя ўмовы і для развіцця жывога бытавання беларускай мовы, «каб з фармальна раўнапраўнай зрабіць яе фактычна раўнапраўнай мовай» (Нацыянальнае пытанне: Зб. Мн., 1932. С. 255—256). Пленум рэкамендаваў членам партыі, якія валодаюць беларускай мовай, карыстацца пераважна ёю ў сваіх выступленнях. Вызначаўся тэрмін пераводу ўсяго справаводства і дакументацыі ў БССР на беларускую мову — ад 1 да 3 гадоў. Па лініі Наркамасветы «навучанне і выкладанне ва ўсіх установах сацыяльнага выхавання і прафтэхнічнай адукацыі, а таксама і абслугоўванне ўсіх іншых культурна-асветных патрэб насельніцтва, павінна весціся на іх роднай матчынай мове» (тамсама. С. 258). Беларуская і руская мовы абвяшчаліся абавязковымі прадметамі выкладання ва ўсіх навучальных установах рэспублікі. Пленум даручыў Бюро ЦК КП(б)Б і акруговым парткамітэтам наладзіць вывучэнне беларускай мовы ўсімі партарганізацыямі, каб усе члены партыі свабодна валодалі ёю.

З часу прыняцця пастановы ЦВК БССР «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенню нацыянальнай палітыкі» (15.7.1924 г.) праграма беларусізацыі набыла заканадаўчае значэнне. У ёй адзначалася: «1. Мовы ўсіх нацыянальнасцяў, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі (беларуская, яўрэйская, расійская, польская), з'яўляюцца раўнапраўнымі. 2. З прычыны значнай перавагі ў БССР насельніцтва беларускай нацыянальнасці беларуская мова выбіраецца як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі... 5. Мовай

зносінаў органаў БССР з органамі СССР і іншых саюзных рэспублік з'яўляецца мова расійская» (Практычнае вырашэнне нацыянальнага пытання ў БССР. Ч. 1. Беларусізацыя. Мн., 1928. С. 136—137). У пастанове ўдакладняліся тэрміны беларусізацыі з улікам узбуйнення тэрыторыі БССР (далучэнне ў сакавіку 1924 г. беларускіх паветаў Віцебскай, Гомельскай, Смаленскай губ.): для ўстаноў па сацыяльным выхаванні — 3 гады, для ўстаноў па прафтэхнічнай асвеце і палітасветных — 5 гадоў. Ставілася задача — стварыць пры ВНУ кафедры для вывучэння мовы, літаратуры, гісторыі, геаграфіі, эканомікі Беларусі, садзейнічаць станаўленню беларускіх тэатраў і кінематографа. Палажэнне пра фактычную дзяржаўнасць беларускай мовы ў межах Беларусі ў 1927 г. было ўключана ў Канстытуцыю БССР (артыкул 22).

У рэзалюцыі кастрычніцкага 1925 г. Пленума ЦК КП(б)Б «Аб нацпалітыцы» звярталася ўвага партыйных арганізацый на тое, каб яны «падавалі прыклад апарату ў справе беларусізацыі»(тамсама. С. 107). Кастрычніцкі 1926 г. Пленум ЦК КП(б)Б зноў вярнуўся да абмеркавання гэтай праблемы і падкрэсліў неабходнасць з 1.1.1927 г. пераходу партыйнага друку на беларускую мову, поўную беларусізацыю Беларускай вайсковай дывізіі. Ставілася задача ліквідаваць беларускую непісьменнасць сярод беларусаў-рабочых, наладзіць вывучэнне беларускай мовы «рабочымі іншых нацыянальнасцяў» (тамсама. С. 118).

Прэзідыум ЦВК БССР 10.7.1925 г. прыняў пастанову пра нездавальняючае выкананне праграмы беларусізацыі ў выніку «незычлівых адносін часткі супрацоўнікаў устаноў да беларускай мовы» і рэштказ «вялікадзяржаўных настрояў». Нацыянальнай камісіі ЦВК было даручана «зрабіць праверку ведаў беларускай мовы супрацоўнікамі ўстаноў і арганізацый», у тым ліку сярод апарата ЦВК, СНК і Наркамасветы БССР, і «пры адмоўных адносінах да беларусізацыі» адхіляць іх ад працы. 16.9.1926 г. ЦВК і СНК БССР прынялі пастанову «Аб парадку праверкі выканання рашэнняў 2-й сесіі ЦВК БССР 6-га склікання ад 15 ліпеня 1924 г. ў частцы правядзення беларусізацыі апаратаў савецкіх і кааператыўных арганізацый і ўстаноў БССР» (тамсама. С. 142—144). У дакументах ЦК КП(б)Б і справаздачах Нацыянальнай камісіі ЦВК БССР адзначаліся поспехі беларусізацыі ў пачатковай і сярэдняй школе, ВНУ, тэхнікумах, у прафесійнай адукацыі, у папаўненні беларускага кніжнага фонду, павелічэнні колькасці беларусаў у выбарных органах усіх звенняў, у беларусізацыі Беларускай вайсковай дывізіі і інш.

Выкананне ўрадавай праграмы беларусізацыі ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР трымалі пад сваім кантролем да канца 1920-х гадоў. У 1928 г. Нацыянальная камісія ЦВК апублікавала справаздачу пра поспехі і цяжкасці яе рэалізацыі. Да аб'ектыўных прычын тых цяжкасцей камісія адносіла недастатковую сацыяльную мабільнасць беларусаў-сялян, а таксама незавершанасць працэсу станаўлення нацыянальнай самасвядомасці сярод пэўнай іх часткі. Паводле перапісу насельніцтва 1926 г. ў БССР пражывала 4 млн. 17 тыс. беларусаў, або 80,62 % усіх жыхароў рэспублікі, пры гэтым сярод сельскага насельніцтва яны складалі 89,1 %, а сярод гараджан — толькі каля 40 %. Сярод служачых беларусы складалі 59,8 %, рускія — 13,1 %, яўрэі — 19,1 %, палякі — 3,4 %, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей — 4,6 % (тамсама. С. 12—15). Паволі адбываўся працэс станаўлення беларускага рабочага класа. Пра гэта сведчыў нацыянальны склад прафсаюзаў у 1927 г., дзе беларусаў было 45,6 %, рускіх — 5,5 %, яўрэяў — 42,6 %, палякаў — 4,1 %. У ліку суб'ектыўных прычын камісія адзначала актыўнае і пасіўнае супраціўленне служачых і іншых слаёў русіфікаванага насельніцтва. У такіх умовах правядзенне беларусізацыі было справай нялёгкай.

Практычнае ажыццяўленне палітыкі беларусізацыі і цяжкасці на гэтым шляху адлюстроўваў тагачасны беларускі друк. У дакладзе на X з'ездзе КП(б)Б (студзень 1927 г.) першы сакратар ЦК КП(б)Б А. І. Крыніцкі, гаворачы пра недапушчальнасць «прымусовай беларусізацыі» ў асяроддзі рабочых і сялян, адзначаў, што ў адносінах да савецкага і партыйнага апарату «мы павінны праводзіць беларусізацыю ў парадку цвёрдай дырэктывы. Так мы павінны будзем звальняць тых працаўнікоў, якія не ўмеюць, працуючы ў савецкім апараце, выконваць дэкрэты аб беларусізацыі» («Савецкая Беларусь», 15.1.1927 г.). Бюро ЦК КП(б)Б патрабавала адхіліць ад працы тых кіраўнікоў, якія не выконваюць «дырэктыў кампартыі і ўраду аб беларусізацыі» (тамсама. 12.10.1929 г.). Аднак атакі ў 1928—29 гг. на беларускія пісьменніцкія, навукова-асветніцкія і мастацкія арганізацыі пад выглядам прыдуманай сталіністамі барацьбы супраць «беларускага буржуазнага нацыянал-дэмакратызму» і «кулацкай ідэалогіі» ў значнай ступені прыпынілі гэты працэс. Так, у пастанове Бюро ЦК КП(б)Б «Аб стане беларусізацыі савецкага, гаспадарчага і прафесіянальнага апарату» (кастрычнік 1929 г.) з аднаго боку ставіцца задача «скончыць поўны перавод усіх устаноў», у тым ліку ВНУ, на беларускую мову; з другога боку праводзіцца сталінскі тэзіс пра «абвастрэнне класавай барацьбы» па меры поспехаў у пабудове сацыялізму і неабходнасць змагацца з «беларускім нацыянал-дэмакратызмам, расійскім і іншымі шавінізмамі» (тамсама. 12.10.1929 г.). У афіцыйных дакументах мянялася само паняцце беларусізацыі. У рэзалюцыі студзеньскага (1925 г.) Пленума ЦК КП(б)Б адзначалася: «Асноўным пытаннем беларусізацыі з'яўляецца пытанне аб беларускай мове» (Нацыянальнае пытанне: Зб. Мн., 1932. С. 263). У партыйных рэзалюцыях і ў выступленнях першага сакратара ЦК КП(б)Б К. В. Гея ў пачатку 1930-х г. «прымусовая» беларусізацыя кіруючага апарату ўжо кваліфікавалася як памылка. Адначасова дэзавуіравалася раней выпрацаваная канцэпцыя дамінуючага значэння беларускай мовы ў праграме беларусізацыі (тамсама. С. 312, 319).

Жорсткія рэпрэсіі супраць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ў 1930-я гг., прымусовая калектывізацыя і масавыя высылкі сялянства з рэспублікі спынілі гэты працэс вяртання народу яго мовы, іншых духоўных каштоўнасцей. Беларусізацыя фармальна да сярэдзіны 1930-х гг. заставалася ў лексіконе партыйнай і дзяржаўнай улады, а пасля наогул была спынена. Аднак яе вынікі сталі фактам сацыякультурнага жыцця, іх ужо нельга было выкрасліць з гісторыі. Вёска, дзе жыла ў 1930—1950-я гг. большасць насельніцтва рэспублікі, вясковая агульнаадукацыйная школа, педтэхнікумы і настаўніцкія інстытуты ў значнай ступені заставаліся беларускамоўнымі. Далучэнне ў верасні 1939 г. Заходняй Беларусі да БССР таксама паўплывала на адносную стабільнасць беларускай мовы і культуры ў краіне. Толькі ў 1960—1970-я гг. адбылося выцясненне беларускай мовы са сфераў дзяржаўнага кіравання, вышэйшай адукацыі, навукі, сацыяльнага абслугоўвання. Калі, напрыклад, «сталінская» Канстытуцыя БССР 1937 г. фармальна гарантавала права на адукацыю «навучаннем у школе на роднай мове», то праз 40 гадоў «брэжнеўская» Канстытуцыя БССР 1978 г. абмяжоўвалася абстрактнай «магчымасцю навучання на роднай мове». Толькі пасля прыняцця закона «Аб мовах у Беларускай ССР» (1990) і абвяшчэння суверэннай Рэспублікі Беларусь (1991) пачаліся спробы новага варыянта беларусізацыі, якая праводзіцца пакуль што павольна і асцярожна, пераважна на ўзроўні мясцовых улад і грамадскіх арганізацый.

*Літ.:* Баліцкі А. Беларусізацыя культурна-асветных устаноў // Полымя. 1925. № 4—5; Конан У. Святло для людзей: Родная мова і культура ў эпоху перабудовы. Мн., 1989. *У. М. Конан.*

## «БЕЛАРУСКАЯ АНАМАСТЫКА»

«Беларуская анамастыка» — зборнік навуковых і навукова-папулярных артыкулаў па анамастыцы (гл. **Ана-**




**«Беларуская анамастыка» (вокладкі зборнікаў).**

**мастыка**) Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Выйшлі 4 выпускі (1977, 1981, 1985, 1992) пад рэд. М. В. Бірылы і В. П. Лемцюговай. У іх змешчаны артыкулы па пытаннях тапанімікі (гл. **Тапаніміка**), антрапанімікі (гл. **Антрапаніміка**), гідранімікі (гл. **Гідраніміка**), мікратапанімікі (гл. **Мікратапаніміка**), бібліяграфічны паказальнік анамастычных прац (1955—91), якія датычацца Беларусі або суседніх тэрыторый, слоўнікі мікратапонімаў асобных беларускіх раёнаў або паселішчаў.

Даследуюцца пытанні тэорыі і методыкі анамастыкі (Жучкевіч В. А. Колькасныя і статыстычныя метады ў тапаніміцы, 1977), асновы і словаўтваральныя сродкі розных класаў уласных імён (Іванова А. А. Землеробчая лексіка ў складзе мікратапаніміі Мазырскага Палесся, 1977; Бірыла М. В. Усходнеславянскія антрапонімы з адмоўем *не-* тыпу *Неждан, Недбай, Небаба, Некрас, Неваш, Нетреба*, 1981; Лемцюгова В. П. Айконімы з лексічнай асновай *погост*, 1981). У асобных артыкулах робіцца спроба паказаць запазычанні ў беларускай анамастыцы (Арашонкава Г. У. Польскія элементы ў беларускай мікратапаніміі, 1981), параўнаць спосабы ўтварэння ў беларускай і іншамоўнай тапаніміі [Будзько П. С. Тыпалогія састаўных айконімаў: (На матэрыяле бел. і ням. моў), 1985]. Шырокаму чытачу адрасуюцца нататкі пра паходжанне геаграфічных назваў (Марозаў В. І. Сляды вайны ў тапаніміі Гродзеншчыны, 1981), «Антрапанімічныя эцюды» Г. К. Усціновіч (1977, 1981, 1985), у якіх расказваецца пра паходжанне асабовых імён і прозвішчаў людзей, і іншыя публікацыі.

Трэці выпуск «Беларускай анамастыкі» з'яўляецца вынікам творчага супрацоўніцтва калектываў Інстытута мовазнаўства АН Беларусі, кафедраў беларускай і рускай моў Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна і Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук. Аб'ект даследавання тут складае анамастычная лексіка польска-беларускага пагранічча. Б. Чопэк у артыкуле «Айконімы адгідранімічнага паходжання басейна Буга на тэрыторыі пераходных гаворак (польска-украінскіх і польска-беларускіх)» аналізуе таксама і назвы паселішчаў пагранічных з Польшчай раёнаў Украіны. «Айконімы Pluralia tantum літоўскага паходжання ў Беластоцкім рэгіёне» — тэма даследавання М. Кандрацюка. Матэрыял, на аснове якога напісаны артыкулы, узяты з самых розных, часам маладаступных, крыніц і ўпершыню ўводзіцца ў навуковы ўжытак. Архіўныя матэрыялы сталі асновай артыкула З. Ф. Краўчанкі пра назвы вуліц г. Мінска (1981). На аснове мясцовых матэрыялаў напісаны артыкулы пра асабовыя імёны людзей (Макаранка З. І., Шумская І. А. Уласныя асабовыя імёны Брэсцкага раёна, 1985), пра клічкі свойскіх жывёл, назвы дробных геаграфічных аб'ектаў.

У выпуску 1992 г. даследуецца функцыяніраванне антрапонімаў у мове і грамадстве [Крыўко М. Н. З антрапаніміі Дзісеншчыны: (Функцыянальны аспект)], правапіс тапонімаў (Яшкін І. Я. Аб напісанні назваў азёр і балот Беларусі), іх паходжанне і інш. *В. П. Лемцюгова.*

## «БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА ДЛЯ ШКОЛ» Б. А. ТАРАШКЕВІЧА


БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА

ДЛЯ ШКОЛ

Б. Тарашкевіч.

Выданьне «Беларускага Камітэту»

1918 г.

**Б. Тарашкевіч. «Беларуская граматыка для школ» (тытульны ліст). 1-е выданне. 1918.**

«Беларуская граматыка для школ» Б. А. Тарашкевіча — праца, у якой упершыню былі вызначаны правапісныя і граматычныя нормы сучаснай беларускай мовы. Надрукавана ў 1918 г. паралельна кірылаўскімі (76 с.) і лацінскімі (112 с.) літарамі ў знакамітай друкарні Марціна Кухты ў Вільні. Выхад яе як найлепш адпавядаў задачам нацыянальнага адраджэння беларускага народа, сярод якіх асабліва важнымі былі — упарадкаваць выдавецкую справу і школьнае навучанне на роднай мове.

Спробы стварыць граматыку беларускай мовы, распрацаваць правілы перадачы яе на пісьме рабіліся яшчэ ў мінулым стагоддзі ў сувязі з друкаваннем запісаў фальклору і твораў тагачасных беларускіх пісьменнікаў. Быў назапашаны вялікі фактычны матэрыял пра асаблівасці жывой гаворкі беларусаў. Гэты матэрыял абагульніў і папоўніў Я. Ф. Карскі. Апісанню структуры жывой беларускай гаворкі (яе фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу) ён прысвяціў тры кнігі 2-га тома манаграфіі «Беларусы» (Варшава, 1908—12). Але правапісныя і граматычныя нормы беларускай мовы да выхаду граматыкі Тарашкевіча заставаліся па сутнасці нераспрацаванымі. Грамадска-палітычныя абставіны не спрыялі спробам літаратурнай апрацоўкі беларускай мовы, паколькі афіцыйна яна не прызнавалася самастойнай мовай і друкаванне на ёй усяляк абмяжоўвалася. Ды і практыка беларускага кнігадрукавання не магла адразу даць адказ, якія рысы з'яўляюцца найбольш тыповымі для беларускай мовы і іх неабходна замацаваць у якасці яе літаратурных норм. Толькі на пачатку 20 ст., калі выдавецкая справа на беларускай мове пашырылася і склаліся пэўныя традыцыі беларускага кнігадрукавання, стыхійна выпрацаваліся асобныя правілы пісьма і граматыкі, якія, аднак, не былі апісаны і замацаваны адпаведным чынам, а таму нярэдка парушаліся. Гэта прыводзіла да непаслядоўнасці, разнабою ў друку, перашкаджала навучанню беларускай мове.

З прапановай стварыць граматыку беларускай мовы звярнуўся Я. Купала ад імя Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні да Тарашкевіча яшчэ ў 1913 г., калі той быў студэнтам 3-га курса Пецярбургскага універсітэта. Да напісання граматыкі, паводле слоў самога Тарашкевіча, заахвочваў яго акад. А. А. Шахматаў. Ён жа і кіраваў працай Тарашкевіча над граматыкай. Значную дапамогу аказаў яму і акад. Я. Ф. Карскі. Сваім натхніцелем у працы Тарашкевіч называў яшчэ нямецкага прафесара-славіста Р. Абіхта, які крыху раней, але таксама ў 1918 г., выдаў на беларускай мове невялічкую брашуру «Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным».

Граматыку Тарашкевіч выдаў ужо пасля сканчэння універсітэта, дзе атрымаў вучоную ступень кандыдата філалогіі. Дасканалая спецыяльная падрыхтоўка аўтара, дапамога такіх дасведчаных вучоных, як Шахматаў і




**Б. Тарашкевіч. «Беларуская граматыка» (вокладка). 7-е выданне. 1943.**

Карскі,— усё гэта спрыяла таму, што яго граматыка, у адрозненне ад іншых тагачасных беларускіх граматык (Б. Пачобкі, А. Смоліч, А. Луцкевіча, Я. Станкевіча), аказалася найбольш удалай. Складзеная проста, з арыентацыяй на вучня, але на высокім навукова-метадычным узроўні, яна задаволіла найбольш надзённыя патрабаванні выдавецкай і школьнай практыкі, атрымала ўсеагульнае прызнанне і тым самым надала беларускай мове неабходную ёй унармаванасць.

У сваёй працы Тарашкевіч выйшаў за межы ўласна граматыкі — марфалогіі і сінтаксісу (як гэта было прынята ў тагачаснай лінгвістыцы). Яго праца складаецца з наступных раздзелаў: I. Гукі (г. зн. фанетыка); II. Часціны мовы (разглядаюцца назоўнік — «імя», прыметнік — «прымета», лічэбнік — «чысло», займеннік — «займа», дзеяслоў, прыслоўе, прыназоўнік — «прыймя», злучнік — «злуч», выклічнік — «кліч»); III. Падзел слова (г. зн. яго марфемная будова); IV. Правапіс; V. Сказ (г. зн. сінтаксіс). Такім чынам, апісваюцца ўсе ўзроўні моўнай сістэмы з пункту погляду іх нарматыўнасці, правіл перадачы на пісьме. Гэта хоць і сціслы, але поўны падручнік беларускай мовы. Правілы ў іх сфармуляваны дакладна, даходліва, ілюструюцца прыкладамі. Для іх замацавання даюцца заданні («задачкі») з тэкстамі, узятымі з твораў беларускіх пісьменнікаў і фальклору.

Тарашкевіч здолеў, як ніхто да гэтага, выявіць галоўныя заканамернасці беларускай літаратурнай мовы, гістарычна абумоўленую сувязь яе фанетыка-граматычных рыс найперш з цэнтральнымі («сярэднімі») беларускімі гаворкамі. Улічваючы традыцыі беларускага кнігадрукавання, ён замацаваў фанетычны прынцып напісання галосных (перадачу на пісьме такіх рыс, як аканне і яканне), а для перадачы зычных — марфалагічны (*горад, падтрымаць, матцы*, а не *горат, паттрымаць, маццы*, як вымаўляецца), з некаторымі адхіленнямі ў бок фанетычнага прынцыпу, каб адлюстраваць спецыфіку беларускай мовы (дзеканне і цеканне, падаўжэнне зычных, змяненне *в* і *л* на *ў* у пэўных выпадках, зацвярдзенне шыпячых, *р* і этымалагічнага *ц*, асіміляцыю зычных па мяккасці тыпу *аканье, сьнег, цьвёрды, разьвівацца* і інш.). Асобна быў распрацаваны правапіс запазычаных слоў у адпаведнасці з тым, наколькі яны асіміляваліся беларускай мовай: тыя, што ўжываюцца ў ёй даўно, пішуцца, як вымаўляюцца (*літара, аканом, леварвэр*), а тыя, «што ўжываюцца ў кніжках і ў кніжнай мове і да народу не дайшлі або дайшлі нядаўна», захоўваюць на пісьме пэўныя адметнасці той мовы, з якой яны ўзяты (*літэратура, монолёг, інспэктар* і інш.). Увогуле правільна былі вызначаны галоўныя граматычныя катэгорыі беларускай мовы, характэрныя для яе формы словазмянення.

Сфармуляваныя ў граматыцы правілы атрымалі ўсеагульнае прызнанне, многія замацаваліся ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Аднак некаторыя з іх былі не зусім добра распрацаваны (перадача на пісьме *е* ў ненаціскным становішчы, напісанне запазычаных слоў). Збыткоўнымі аказаліся асобныя катэгорыі і паралельныя формы скланення і спражэння (парны лік назоўнікаў тыпу *дзьве хаце*, раўнапраўнасць такіх форм, як *касьцьмі* і *касьцьма, дзьвюх* і *дзьвёх, гэты* і *гэны, крычым* і *крычом*), якія аўтар уводзіў, каб як мага шырэй адлюстраваць спецыфіку беларускай мовы або і па той прычыне, што некаторыя тыповыя рысы яе на тыя часы яшчэ выразна не вызначыліся. Аўтар усведамляў, што зрабіў толькі пачатак нармалізацыі беларускай мовы, што патрэбна далейшае ўдасканаленне яе норм. Рыхтуючы 5-е выданне граматыкі (а выдавалася яна 7 разоў, апошні — у Мінску ў 1943 г.), ён значна перапрацаваў і дапоўніў яе. На аснове граматыкі Тарашкевіча хутка сталі выходзіць падручнікі беларускай мовы іншых аўтараў (напрыклад, у 1921 г.— «Практычная граматыка беларускай мовы» Я. Лёсіка). З выхадам граматыкі Тарашкевіча пачаўся працэс стабілізацыі норм сучаснай беларускай літаратурнай мовы, быў створаны грунт для яе далейшай граматычнай распрацоўкі, удасканалення ўласцівых ёй структурных элементаў.

У 1991 г. выдавецтва «Народная асвета» ўзнавіла 5-е выданне (1929) граматыкі факсімільным спосабам.

*Літ.:* Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968. С. 160—181; Яновіч А. І. Б. А. Тарашкевіч — моваывед: (Да 90-годдзя з дня нараджэння) // Беларуская лінгвістыка. Мн., 1982. Вып. 21. *Л. М. Шакун.*

## «БЕЛАРУСКАЯ ЛІНГВІСТЫКА»

«Беларуская лінгвістыка» — навуковы штогоднік Інстытута мовазнаўства АН Беларусі. Выходзіць з 1972 г. на беларускай мове па 2 выпускі ў год. Галоўны рэдактар — А. І. Падлужны. Асноўнае месца ў кожным выпуску займаюць навукова-тэарэтычныя артыкулы па разнастайных пытаннях беларускага, славянскага, агульнага і прыкладнога мовазнаўства, радзей — па пытаннях германістыкі і раманістыкі. Значная ўвага ў артыкулах і нататках аддаецца праблемам, звязаным з гісторыяй беларускай мовы (Вярхоў П. В. Назоўнікі на *-ець* у беларускай мове, 1972, вып. 1; Булыка А. М. Іншамоўныя лексічныя элементы ў Вісліцкім статуце, 1974, вып. 5; Жураўскі А. І. Літаратурная мова Кіеўскай Русі — зыходны этап у гісторыі старабеларускай літаратурнай мовы, 1982, вып. 21), дыялекталогіяй [Крывіцкі А. А. Беларускія занальныя назвы франтона і паходжанне шчыта: (Да методыкі храналаг. інтэрпрэтацыі лінгвагеагр. адносін), 1973, вып. 3; Вайтовіч Н. Т. Доўгія галосныя ў беларускіх гаворках, 1973, вып. 4], сучаснай беларускай мовай (Міхневіч А. Я. Праблемы семантычнага сінтаксісу беларускай мовы, 1974, вып. 6; Бірыла М. В. Націск невытворных аднаскладовых назоўнікаў мужчынскага роду і Выгонная Л. Ц. Фанетычныя асаблівасці шматскладовых слоў у беларускай літаратурнай мове, 1978, вып. 14; Падлужны А. І. Дыстрыбуцыйныя класы фанем у беларускай мове, 1983, вып. 24; Ярмаш М. І. Непрадуктыўныя словаўтваральныя тыпы зборных назоўнікаў беларускай мовы, 1984, вып. 25), лексікалогіяй і лексікаграфіяй (Баханькоў А. Я. Уласнабеларускія неалагізмы савецкага часу, 1980, вып. 17; Шчэрбін В. К. Праблема класіфікацыі беларускіх слоўнікаў, 1987, вып. 31), этымалогіяй (Мартынаў В. У. Беларуская этымалогія: Некаторыя аспекты, 1972, вып. 1; Краўчук Р. У. Два праславянскія дыялектызмы з архаічнай структурай, 1976, вып. 9). Рэгулярна друкуюцца артыкулы па выніках эксперыментальнага вывучэння гукавога складу беларускай мовы (Барышнікава К. К., Падлужны А. І. Эксперыментальна-фанетычныя даследаванні ў Беларусі і Якушаў Э. Р. Перыяд асноўнага тону — натуральная адзінка вымярэння працягласці гукаў мовы, 1974, вып. 5), пытанняў двухмоўя і шматмоўя (Лукашанец А. А. Назіранні над інтэрферэнцыяй у рускамоўнай мастацкай літа-




**«Беларуская лінгвістыка» (вокладкі часопісаў).**

ратуры Беларусі, 1979, вып. 16; Гіруцкі А. А. Да характарыстыкі моўнай сітуацыі ў БССР, 1980, вып. 18). Належнае месца ў штогодніку займаюць артыкулы па славянскім (Воўк-Леванові́ч Я. В. Яшчэ да пытання аб «ляшскіх» рысах у беларускай фанетыцы, 1973, вып. 3; Цыхун Г. А. Беларуска-паўднёваславянскія лексічныя сувязі. Некаторыя праблемы і вынікі, 1974, вып. 5), агульным і прыкладным мовазнаўстве (Буковіч У. А. Некаторыя пытанні машыннага перакладу навукова-тэхнічнага тэксту, 1973, вып. 4; Таранаў А. Ф. Тэкставая характарыстыка рэаліі ў семіялагічным апісанні фрагмента рэчаіснасці, 1979, вып. 16; Гумінскі А. П. Паняцце сітуацыі і сэнс сказа, 1985, вып. 28), розных аспектах анамастыкі [Бруй М. Е. Тураў і наваколле: (Гідратапанім. нататкі), 1974, вып. 5; Грыгор'ева Л. М. Айконімы беларускага Падзвіння з суфіксамі *-оўка/-аўка, -ёўка/-яўка*, 1978, вып. 14; Лемцюгова В. П. Тэрмін *двор* і яго вытворныя ва ўсходнеславянскай айканіміі, 1981, вып. 19]. Аўтарамі артыкулаў з'яўляюцца супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства, выкладчыкі ВНУ рэспублікі, а таксама айчынныя і замежныя вучоныя, якія распрацоўваюць пытанні беларусістыкі па-за межамі рэспублікі (Урыгстад Т. Некаторыя праблемы марфанематычнага апісання беларускай мовы і Чаранкоў Л. М. Цыганскі дыялект у беларускім моўным асяроддзі, 1974, вып. 6; Альт Т. Ф. Мова Літоўскага статута 1529 г., 1978, вып. 14). Раздзел «Культура мовы» асвятляе найбольш складаныя і спрэчныя пытанні беларускамоўнай практыкі (Свяжынскі У. М. Аб перадачы літоўскіх уласных назваў у беларускай мове, 1986, вып. 30; Вештарт Г. Ф. Аб перакладзе на беларускую мову некаторых грамадска-палітычных тэрмінаў з твораў У. І. Леніна, 1987, вып. 31). Друкуюцца агляды навуковай літаратуры і рэцэнзіі на работы беларускіх, савецкіх і замежных вучоных па беларусістыцы. У раздзеле «Хроніка» штогоднік інфармуе пра навіны навуковага жыцця ў рэспубліцы і за яе межамі.

*Літ.:* Z a t o v k a ň u k M. Nad stránkami deseti sešitů časopisu «Беларуская лінгвістыка» // Ceskoslovenská rusistika. 1979. № 24 (1). *П. А. Міхайлаў.*

## «БЕЛАРУСКАЯ МОВА»

Штогадовы рэспубліканскі міжведамасны зборнік Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь «Беларуская мова» заснаваны ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны ў 1973 г. пад назвай «Беларуская мова і мовазнаўства» (вып. 1—4), з 1977 — «Беларуская мова» (вып. 5 і наступныя). Галоўны рэдактар зборніка У. В. Анічэнка. Асноўная мэта выдання — даць выкладчыкам беларускай мовы і студэнтам-філолагам шырокія звесткі па розных лінгвістычных дысцыплінах, асабліва неабходныя ў вучэбным працэсе. Зборнік змяшчае шматлікія тэарэтычныя артыкулы, аўтарамі якіх з'яўляюцца выкладчыкі мовазнаўчых кафедраў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, аспіранты, вучоныя Інстытута мовазнаўства АН Беларусі. Артыкулы прысвячаюцца праблемам гісторыі беларускай мовы (Парукаў А. А. Спецыфічныя асаблівасці лексікі неперакладных выданняў Скарыны, вып. 4; Анічэнка У. В. Гісторыя функцыяніравання беларускай мовы, вып. 11), яе сучаснага стану (Шкраба І. Р. Варыянтнасць службовых слоў у сучаснай беларускай мове, вып. 14), культуры мовы і маўлення (Тамашэвіч Т. І. Пра сцісласць у мове і маўленні, вып. 16), узаемадзеяння з іншымі мовамі (Станкевіч А. А. Семантычная структура грэцызмаў і лацінізмаў у сучаснай беларускай мове, вып. 4; Баханькоў А. Я. Паўкалькі ў беларускай мове савецкага часу, вып. 10) і інш. У зборніку асвятляецца роля дзеячаў культуры і іх уклад у развіццё беларускай мовы на розных этапах яе існавання (Шакун Л. М. Я. Ф. Карскі як даследчык гісторыі беларускай літаратурнай мовы, вып. 13), друкуюцца даследаванні моўнага майстэрства вядомых беларускіх пісьменнікаў (Казлова Р. М. Дыялектная лексіка ў палескіх раманах І. Мележа, вып. 1; Рудакоўская З. А. Словы з нумаральным значэннем у паэтычных творах Я. Купалы, вып. 2; Сідарэц В. С. Ад'ектыўныя словазлучэнні з азначальным прыслоўем у прозе Янкі Брыля, вып. 2). Значнае месца займаюць публікацыі па актуальных пытаннях параўнальна-гістарычнага і супастаўляльнага вывучэння беларускай і іншых славянскіх, а таксама некаторых неславянскіх моў. Такі лінгвістычны аналіз робяць у зборніку не толькі беларускія, але і рускія, украінскія, літоўскія і польскія мовазнаўцы.

Акрамя тэарэтычных артыкулаў, «Беларуская мова» змяшчае слоўнікі розных тыпаў і прызначэння, якія грунтуюцца на матэрыялах гаворак Гомельшчыны. У іх падрыхтоўцы прымаюць удзел выкладчыкі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта і Мазырскага педінстытута. Каштоўны матэрыял даследчыкам беларускай літаратурнай мовы дае публікацыя «Матэрыялаў для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны» (вып. 3—10). Не менш цікавымі з'яўляюцца «Матэрыялы для слоўніка назваў жыхароў Гомельшчыны» (вып. 11—14) і «Матэрыялы для слоўніка гідронімаў Гомельшчыны» (вып. 15 і наступныя), якія плануецца як частка будучага «Гідранімічнага атласа Беларусі», дзе будуць сістэматызаваны геаграфічныя назвы паводле водных аб'ектаў, размешчаных на тэрыторыі нашай рэспублікі.

Разнародныя тэарэтычныя і прак-

тычныя матэрыялы зборніка разлічаны не толькі на навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў, аспірантаў, студэнтаў-філолагаў і школьнікаў, работнікаў друку, радыё і тэлебачання, але і на ўсіх, хто вывучае беларускую мову ў яе розных формах і сферах ужывання. *У. В. Анічэнка.*



**«Беларуская мова» (вокладкі зборнікаў).**

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА СЯРОД ІНШЫХ СЛАВЯНСКІХ МОЎ

Становішча беларускай мовы ў сям'і славянскіх моў вызначаецца яе адносінамі да асобных моўных адзінак, што ўтвараюць названую сям'ю. Пры гэтым, як адзначаў П. Бузук, маецца на ўвазе як становішча ў прасторы (перш за ўсё межы і кантакты), так і становішча ў часе (зараджэнне і далейшае развіццё ў сувязі з зараджэннем і развіццём іншых славянскіх моў). Блізкасць славянскіх моў тлумачыцца ў першую чаргу тым, што ў пэўны перыяд продкі сучасных славянскіх народаў жылі разам на параўнальна невялікай тэрыторыі, т. зв. прарадзіме славян. Зразумела, што ў той час сувязь паміж імі была цяснейшая, а падабенства, у тым ліку і моўнае, было значна большым, чым цяпер. Гэта дазваляе гаварыць аб т. зв. праславянскай мове (гл. **Праславянская мова**), агульнай мове ўсіх славян, фрагменты якой можна ўзнавіць на падставе некаторых старажытных фактаў, што захаваліся ў асобных славянскіх мовах і дыялектах. На думку вучоных, праславянская мова не была поўнасцю аднастайнай на ўсёй тэрыторыі першапачатковага рассялення славян, у ёй, відаць, існавалі дыялектныя адрозненні. Але ці адпавядалі праславянскія дыялекты сучасным групоўкам славянскіх моў, сярод вучоных-славістаў адзінай думкі няма. Побач са спробамі суаднесці дыялектнае чляненне праславянскай мовы з цяперашнім падзелам славян на 3 групы — усходніх, заходніх і паўднёвых — выказваецца меркаванне, што названыя групы ўтварыліся адносна позна на іх сучасных тэрыторыях у выніку збліжэння гаворак, якія раней належалі да розных праславянскіх дыялектаў. Ускосна пра гэта сведчаць аднолькавыя ці падобныя племянныя назвы, што цяпер належаць да ўсходніх, заходніх і паўднёвых славян. Напрыклад, назву *харваты* насілі плямёны, якія жылі на Балканах, у Прыкарпацці і на Лабе (Эльбе), назву *паляне* — славяне, што жылі ў цэнтральнай Польшчы і ў раёне Кіева, і г. д. (гл. карту «Некаторыя са славянскіх плямён» на стар. 56). З назваў плямён, што жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі і прылеглых тэрыторыях і маюць адпаведнікі ў іншых канцах славянскага свету, вядомы наступныя: *дрыгавічы* на поўдні Беларусі і *другавіты* ў Македоніі, *драўляне (дзераўляне)* на Палессі і *дравяне* на Лабе (Эльбе), *севяране* ў басейне Дняпра і ва ўсходняй Балгарыі, *дулебы* ў Заходнім Палессі і на Валыні, а таксама на Дунаі, *смаляне* ў вярхоўях Дняпра і *смаляне (смоленцы)* у Радопскіх гарах на Балканах. Ці можна лічыць гэтае супадзенне выпадковым? Тым больш, што ёсць і летапісныя сведчанні аб значных міграцыях у межах славянства, напрыклад аб прыходзе *радзімічаў* і *вяцічаў* «ад ляхаў», г. зн. з захаду. Ёсць шматлікія супадзенні ў аддаленых дыялектах розных славянскіх моў, якія ахопліваюць лексіку, марфалогію, фанетыку і іншыя ўзроўні моўнай сістэмы; пры гэтым нярэдка падабенства ў структуры моўных з'яў можа сведчыць аб больш глыбокіх сыходжаннях. Напрыклад, блізкасць назваў гарадоў *Мазыр* на Беларусі і *Mozirje* ў Славеніі разглядаецца як водгалас старажытных сувязей продкаў беларусаў і славенцаў (Ф. Бязлай), а наяўнасць у беларускіх і ў сербскахарвацкіх гаворках праславянскіх рэліктаў **sadьno* і **sěslo* (параўн. палеск. *садно* — 'устаўка ў нагавіцах; сядзенне', *сесла* — тое ж самае) дазваляе выказаць думку аб магчымасці ўсходнеславянскага ўдзелу ў фарміраванні асобных паўднёваславянскіх моў (В. Борысь). Мяркуюць, што сляды былой блізкасці продкаў славян у межах праславянскай моўнай прасторы захоўваюцца ў сучасных мовах і дыялектах. Задача ў тым, каб на падставе такіх слядоў узнавіць малюнак узаемных адносін даўніх славян і вызначыць месца ўім моўных продкаў беларусаў. Пакуль адназначнага рашэння гэтай задачы няма, хоць і існуюць шматлікія гіпотэзы. Так, рускі вучоны А. Шахматаў лічыў, што продкі беларусаў на пэўным этапе развіцця славянскай моўнай супольнасці займалі прамежкавае становішча паміж продкамі рускіх і украінцаў і прадстаўнікамі заходнеславянскіх народаў, разам з якімі яны перажылі шэраг агульных моўных працэсаў, сярод іх найважнейшымі лічацца дзеканне — цеканне і страта мяккага *р*. П. Бузук даводзіў, што і ў старажытнасці мова продкаў беларусаў займала цэнтральнае становішча ў славянскім свеце, пра што сведчаць шматлікія ізаглосы, якія звязваюць яе пераважна з усходнімі і заходнімі славянамі (поўнагалоссе; аканне; дзеканне; цеканне; *о, е*⟨*ъ, ь*; *č*⟨*tj*; падваенне зычных у спалучэннях з *j* і інш.). На падставе лексічных фактаў А. Трубачоў меркаваў, што ў межах праславянскай моўнай прасторы продкі беларусаў разам з украінцамі і паўднёварусамі былі бліжэй да прадстаўнікоў дыялектаў, на

базе якіх пазней сфарміраваліся ніжнялужыцкая, сербскахарвацкая і славенская мовы. Звяртаецца ўвага на спецыфічныя тыпалагічныя сувязі беларускай мовы з сербскахарвацкай у будове склада (І. Савіцка) і інш. Незалежна ад гэтых меркаванняў у сучаснай славістыцы ўсё больш пачынае пераважаць думка аб складаным паходжанні ўсіх сучасных славянскіх моў, у тым ліку і беларускай, моўныя продкі якой маглі належаць да розных дыялектных груповак праславянскага перыяду. У сувязі з гэтым падвяргаецца сумненню даволі распаўсюджаны тэзіс аб поўным зыходным дыялектным адзінстве ўсходніх славян і тэорыя т. зв. агульнай калыскі ўсіх усходнеславянскіх моў, што асабліва добра відаць з прац, прысвечаных вывучэнню старажытнанаўгародскага дыялекту (Д. Зяленін, Б. Ларын, А. Залізняк і інш.). Сучаснае становішча беларускай мовы адлюстроўвае процілеглыя працэсы інтэграцыі і дыферэнцыяцыі, якія адбываліся на ўсходзе славянства ў параўнальна позні час і прывялі, з аднаго боку, да выпрацоўкі пэўных супольных рыс, з другога — да кансалідацыі ў рамках беларускай, рускай і ўкраінскай моў дыялектаў, якія захоўваюць памяць пра былую блізкасць з гаворкамі іншых славянскіх моў. Гэта падобна на мазаіку, складзеную з асобных кавалачкаў разбітага пано са сваім малюнкам, узнавіць які няпроста. Аднак па меры накаплення надзейных фактаў гэты малюнак павінен усё больш праясняцца. У прыватнасці, можна сцвярджаць, што чым больш спецыфічных старажытных з'яў звязвае пэўную славянскую мову з астатнімі, тым бліжэй да цэнтра праславянскай моўнай прасторы знаходзіліся яе моўныя продкі, і наадварот, чым менш такіх агульных рыс і з меншай колькасцю славянскіх моў яе звязваюць, тым далей былі яе моўныя продкі ад цэнтральнай зоны першапачатковай супольнасці славян. Стан даследавання спецыфічных старажытных сувязей беларускай мовы з іншымі славянскімі мовамі не дае яшчэ падстаў для дакладнай лакалізацыі «прабеларусаў» у рамках такой супольнасці, аднак значная колькасць выяўленых прыватных беларуска-іншаславянскіх адпаведнікаў сведчыць, што хутчэй за ўсё яны размяшчаліся бліжэй да цэнтра, чым да перыферыі.

У справу вывучэння беларуска-іншаславянскіх моўных сувязей унеслі пэўны ўклад як айчынныя моваведы, так і славісты іншых краін. На больш раннім этапе развіцця славістыкі гэтыя сувязі вывучаліся пераважна на матэрыяле фанетыкі і марфалогіі. Найбольшая ўвага аддавалася даследаванню супольных з'яў, што звязваюць беларускую мову з суседнімі, з мэтай давесці старажытны ці новы характар гэтых сувязей. Значную палеміку выклікала ў свой час праблема так званых «ляшскіх» рыс у беларускай фанетыцы (А. Шахматаў, В. Паржэзінскі, Я. Карскі, І. Воўк-Левановіч, Л. Цвяткоў, П. Растаргуеў, Т. Лер-Сплавінскі, Л. Асоўскі і інш.), якія большасць вучоных лічыць адносна познімі. Спецыяльна даследаваліся агульныя беларуска-рускія (А. Сабалеўскі, А. Шахматаў, М. Трубяцкой, М. Дурнаво, Ф. Філін, В. Арлова і інш.) і беларуска-ўкраінскія (П. Бузук, Ю. Шэрах, Т. Назарава, У. Анічэнка і інш.) старажытныя і новыя фанетычныя і марфалагічныя з'явы. Аднак з пункту погляду рэканструкцыі старажытных адносін найбольш перспектыўным лічыцца вывучэнне прыватных міжславянскіх сувязей у галіне лексікі. У апошні час актыўна даследуюцца лексічныя сувязі беларускай мовы з усходнеславянскімі і паўднёваславянскімі, у прыватнасці з балгарскай і сербскахарвацкай мовамі. Спецыяльна вывучаліся беларуска-балгарскія (І. Лекаў, М. Младэнаў, А. Супрун, С. Іванчаў, Г. Цыхун і інш.), беларуска-сербскахарвацкія (П. Равінскі, Л. Цвяткоў, М. Талстой, Р. Казлова, С. Запрудскі і інш.), беларуска-славенскія (Ф. Бязлай) моўныя сувязі. Вывучэнню беларуска-ўкраінскіх, беларуска-рускіх і беларуска-польскіх сувязей у галіне лексікі былі прысвечаны спецыяльныя сімпозіумы, праведзеныя ў Мінску ў канцы 1960-х і пачатку 1970-х гадоў, пры падрыхтоўцы да якіх быў выяўлены цэлы шэраг старажытных спецыфічных ізаглос. Найменш даследаванымі застаюцца беларуска-лужыцкія, беларуска-чэшскія і беларуска-славацкія моўныя сувязі.

Асобную праблему складае высвятленне месца беларускай літаратурнай мовы сярод літаратурных моў іншых славянскіх народаў. Паводле М. Трубяцкога, у развіцці славянскіх літаратурных моў заўважаюцца 2 традыцыі: царкоўнаславянская і чэшска-польская. Сувязь паміж мовамі, якія належаць да першай традыцыі, ёсць сувязь па пераемнасці, г. зн. гістарычна тыповым прадстаўнікам гэтай традыцыі з'яўляецца руская літаратурная мова, якая засвоіла на працягу ўсёй сваёй гісторыі значную колькасць рыс першай літаратурнай мовы славян — старажытнаславянскай (царкоўнаславянскай). Сюды ж прымыкае і балгарская літаратурная мова, якая часткова непасрэдна працягвае пэўныя асаблівасці царкоўнаславянскай літаратурнай традыцыі, а часткова атрымала іх праз рускую літаратурную мову ў больш позні час. Для літаратурных моў чэшска-польскай традыцыі, куды ўключаюцца таксама славацкая, лужыцкія і ў пэўных адносінах украінская, рашаючае значэнне мае ўплыў суседніх літаратурных моў у перадачы гэтай традыцыі. Што датычыцца сучаснай беларускай літаратурнай мовы, то заключны этап яе фарміравання ў пачатку нашага стагоддзя выяўляе выразнае тыпалагічнае падабенства з тэрытарыяльна далёкімі ад яе сербскахарвацкай і македонскай літаратурнымі мовамі. Аснову гэтай традыцыі складае апора на жывую народную мову, фанетычны правапіс («Пішы, як гаворыш, чытай, як напісана»), шырокая лексічная база і некаторыя іншыя рысы. Яе характарызуе таксама свядомы, як у сербскахарвацкай, ці гістарычна абумоўлены, як у беларускай і македонскай, разрыў з папярэдняй пісьмовай традыцыяй. Трэба адзначыць, што ў развіцці пісьменства ў Беларусі назіралася ўздзеянне і вызначаных М. Трубяцкім царкоўнаславянскай і чэшска-польскай традыцый. Мова перакладаў Францыска Скарыны, адносна характару якой вядуцца да гэтага часу спрэчкі (беларуская ці царкоўнаславянская з элементамі беларускай?), фактычна была спробай стварэння беларускай літаратурнай мовы ў рэчышчы царкоўнаславянскай традыцыі, а старабеларуская літаратурная мова часоў Вялікага княства Літоўскага несумненна развівалася пад значным уплывам чэшска-польскай літаратурнай традыцыі. Аднак абедзве названыя традыцыі не атрымалі працягу на Беларусі, што было звязана з гістарычнымі ўмовамі яе развіцця, і новая беларуская літаратурная мова ўзнікла пасля пэўнага перапынку ў пісьмовай традыцыі на базе народных гаворак. Зразумела, што пры гэтым назіраўся моцны ўплыў таксама з боку суседніх літаратурных моў, у першую чаргу — рускай, польскай, а на заключным этапе фарміравання — і ўкраінскай, што пэўным чынам «згладзіла» праяўленне названай традыцыі.

*Літ.:* Бузук П. Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў// Працы Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14—21 ліст. 1926 г.). Мн., 1927; Воўк-Левановіч І. В. Лекцыі па гісторыі беларускай мовы. Мн., 1927; Станкевіч Я. Месца беларускага языка сярод іншых славянскіх языкоў і час яго ўзьніку// Родная мова. 1930. № 5; Цвяткоў Л. Некаторыя рысы іншаславянскай фанетыкі ў беларускім лексічным матэрыяле // Зап. аддз. гуманіт. навук Ін-та беларускай культуры. Мн., 1928. Кн. 2. Працы класа філалогіі. Т. 1; Филин Ф. П. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. М., 1972; Шахматов А. А. Очерк древнейшего периода истории русского языка // Энциклопедия славянской филологии. Пг., 1915. Вып. 11; Трубачев О. Н. Ранние славянские этнонимы — свидетели миграции славян // Вопр. языкознания. 1974. № 6; Цихун Г. За определяне на генетичната, типологичната и ареалната близост на славянските езици (в частност — белорус-

кия и българския език) // Съпоставително езикознание. 1980. № 5; Лекаў І. Старая супольнасць і новыя канвергенцыі ў развіцці беларускай і балгарскай моў // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972; Казлова Р. М. Беларуска-паўднёваславянскія ізалексы праславянскага паходжання // Бел. лінгвістыка. Мн., 1982. Вып. 21; Bezlaj F. Eseji o slovenskem jeziku. Ljubljana, 1967; Младенов М. Лексикални белоруско-български паралели // Съпоставително езикознание. 1979. № 2; Толстой Н. И. Об изучении полесской лексики // Лексика Полесья. М., 1968; Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мн., 1971; Wexler P. A Historical Phonology of the Belorussian Language. Heidelberg, 1977; Šerech G. (Shevelov G.) Problems in the Formation of Belorussian. New York, 1953; Gutschmidt K. Parallele und divergente Entwicklungstendenzen in jungen slawischen Literatursprachen aus soziolinguistischer Sicht // Zeitschrift für Slawistik. 1973. Bd. 18. H. 4. *Г. А. Цыхун.*



**«Тэрміналогія права». Вып. 10 «Беларускай навуковай тэрміналогіі».**

## «БЕЛАРУСКАЯ НАВУКОВАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ»

«Беларуская навуковая тэрміналогія» (выпускі 1—24) — серыя тэрміналагічных, пераважна двухмоўных (руска-беларускіх) і аднамоўных (беларускіх) слоўнікаў, якія былі падрыхтаваны спецыялістамі па розных галінах ведаў, адрэдагаваны Правапісна-тэрміналагічнай камісіяй Інбелкульта (пазней перайменаванай у Галоўную тэрміналагічную камісію, а потым — у Інстытут навуковай мовы) і выдадзены коштам Інбелкульта (з 1929 г.— коштам Беларускай акадэміі навук) на працягу 1922—30 гадоў.

Да першых спроб беларускай тэрмінатворчай працы адносяцца граматычная тэрміналогія ў падручніку Б. Тарашкевіча «Беларуская граматыка для школ» (1918), слоўнік літаратурных тэрмінаў у кнізе М. Гарэцкага «Гісторыя беларускае літаратуры» (1920), распрацоўка Беларускай вайсковай камісіяй ваеннай тэрміналогіі ў брашурах «Вайсковая стылістыка» (1919) і «Каманды пабеларуску» (1920), укладанне камісіяй Мінскага педагагічнага інстытута «Арыфметычнай тэрміналогіі» (1921), навуковы артыкул Л. Більдзюкевіча «Асновы беларускае матэматычнае тэрміналогіі» ў часопісе «Школа и культура Советской Белоруссии» (1921. № 1—2) і інш.

Паслядоўная і мэтанакіраваная праца па стварэнні беларускай навуковай тэрміналогіі пачалася пасля арганізацыі Беларускага школьнага савета (1919), які распрацоўваў асноўныя тэрміны для пачатковай школы.

У лютым 1921 г. пры народным камісарыяце асветы ССРБ была створана Навукова-тэрміналагічная камісія. Праца камісіі дала багаты плён. Паводле ўспамінаў першага прэзідэнта Беларускай акадэміі навук У. Ігнатоўскага, «за ўвесь час свайго існавання камісія мела 70 агульных пасяджэнняў, на якіх было разгледжана і прынята да 3000 тэрмінаў» (Наш край. 1928. № 12. С. 6). Крыху больш чым за год камісія падрыхтавала і надрукавала на старонках часопіса «Вестник Народного комиссариата просвещения ССРБ» (1921. № 1—2; 1922. № 2—6, 9—12) 8 тэрміналагічных падборак. Высокай ацэнкай работы Навукова-тэрміналагічнай камісіі з'явілася рашэнне тагачаснага ўрада Савецкай Беларусі аб стварэнні ў пачатку 1922 г. на базе гэтай камісіі Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта).

Многія члены былой Навукова-тэрміналагічнай камісіі (М. Байкоў, М. Гуткоўскі, Я. Лёсік і інш.) былі залічаны ў склад Інбелкульта, які падзяляўся на 2 секцыі: прыродазнаўчую і этнолага-лінгвістычную. Этнолага-лінгвістычная секцыя мела 3 камісіі: тэрміналагічную, слоўнікавую і літаратурна-даследчую. Такая структура Інбелкульта стварала ўсе неабходныя ўмовы для далейшай тэрмінатворчай працы былых членаў Навукова-тэрміналагічнай камісіі. М. Байкоў працягваў апрацоўку беларускай тэрміналогіі па логіцы і пасля апублікавання яе ў часопісе «Вестник Народного комиссариата просвещения ССРБ» (1922. № 1), а вынікам гэтай працы з'явілася значна дапоўненая і выдадзеная «Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 4. Тэрміналогія логікі і псіхалогіі» (1923). Пэўную пераемнасць у сваёй тэрміналагічнай рабоце захаваў і старшыня Галоўнай тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта Я. Лёсік, які па даручэнні Навукова-тэрміналагічнай камісіі падрыхтаваў і апублікаваў «Граматычную тэрміналогію» яшчэ ў 1921 г. на старонках «Вестника Народного комиссариата просвещения ССРБ» (№ 2). Калі ж у 1927 г. Інбелкульт надрукаваў падрыхтаваную Я. Лёсікам «Беларускую навуковую тэрміналогію. Вып. 15. Слоўнік граматычна-лінгвістычнае тэрміналогіі. (Праект)», то ў гэтым выданні былі ўлічаны ўжо не толькі вопыт тэрмінатворчай працы ўкладальніка, але і матэрыялы папярэдніх (2, 4, 7) выпускаў «Беларускай навуковай тэрміналогіі» (1923—26).

У імкненні ахапіць як мага больш беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі таго часу Я. Лёсік уключыў у свой тэрміналагічны слоўнік поруч з сапраўднымі тэрмінамі і досыць вялікую колькасць агульнаўжывальных слоў, такіх, як *абмылка, памылка* (ошибка), *аб'ясняльны* (объяснительный), *адбіцьцё* (отражение), *апіска* (описка), *відочны, відавочны* (очевидный), *вобрыс, абрыс* (очертание), *кірунак* (направление), *прыпушчэньне* (предположение), *стараніца, старонка* (страница), *ступянёва* (постепенно), *увага* (примечание), *хібнасьць* (погрешность), *часоўны* (временный) і інш. У сваю чаргу жаданне аўтара кожны іншамоўны лінгвістычны тэрмін перадаць беларускім словам прывяло да значнай коль-

касці штучных наватвораў: *адмена* (разновидность), *аднагучнік* (омоним), *блізказначнік* (синоним), *галяндэрская мова* (голландский язык), *застарэласьць* (архаизм), *кругасказ* (период), *падобнасьць* (аналогия), *першасткова, пярвесны* (первичный), *праваслоў* (орфоэпия) і інш.

Праўда, падобнае злоўжыванне штучнымі наватворамі абумоўлена не столькі поглядамі ўкладальніка гэтага тэрміналагічнага слоўніка, колькі агульнымі метадалагічнымі прынцыпамі тэрмінатворчай працы, якія выпрацаваліся к таму часу на Беларусі. Так, яшчэ Навукова-тэрміналагічная камісія, «па прыкладу чэхаў, трымалася таго погляду, што лепш утвараць згодна з законамі беларускай мовы неалагізмы, чымся браць чужыя, зусім незразумелыя словы» (Адраджэнне. Мн., 1922. Сш. 1. С. 281).

Максімальнаму пашырэнню такога метадалагічнага прынцыпу ў тагачаснай тэрмінатворчай практыцы ў пэўнай ступені садзейнічаў парадак зацвярджэння ў Інбелкульце гатовых тэрміналагічных прац да друку, дакладнае ўяўленне пра які дае наступная вытрымка са справаздачы Аддзела мовы і літаратуры Інбелкульта за 1926/27 акадэмічны год: «Укладанне тэрміналагічных праектаў вядзецца тэрміналагічнымі камісіямі пры Інстытуце Беларускай Культуры, навуковымі таварыствамі і іншымі арганізацыямі, а таксама і паасобнымі спецыялістамі. Кожны тэрміналагічны праект паступае на разгляд і зацвярджэнне сходу Галоўнай Тэрміналагічнай Камісіі і без гэтага зацвярджэння не допускаецца да ўжывання. Пры разглядзе праектаў Камісія мае права: а) адкінуць кожны праект, запрапанаваны ўкладальнікам або дакладчыкам (які абавязкова павінен быць на сходзе Камісіі пры разглядзе тэрміналогіі), б) знайшоўшы неадпаведным той або іншы праект, замяніць яго новым, в) выкідаць лішнія, непатрэбныя тэрміны, г) устаўляць новыя тэрміны, прапушчаныя раней з тых ці іншых прычын, і д) адсылаць увесь праект тэрміналогіі аўтару яго для распрацоўкі і дапаўнення» (Архіў АН Беларусі, ф. 67, воп. 3, спр. 23. С. 32).

Нягледзячы на ўсе адзначаныя недахопы ў рабоце тэрміналагічных камісій Інбелкульта, яны рабілі вельмі карысную для беларускай навукі справу, а іменна: а) вызначалі кола новых навуковых паняццяў і сродкі іх выражэння ў беларускай мове. Поруч з асобнымі няўдалымі штучнымі наватворамі былі прапанаваны і некаторыя даволі трапныя і дакладныя тэрміны, як *скарачэньне* (аббревиатура) — Вып. 7. «Музычныя тэрміны»; *калючапёрыя* (колючепёрые), *яшчарка* (ящерица) — Вып. 12. «Назовы жывёл»; *прымета, азнака* (признак), *выслоўе* (изречение), *дужкі* (скобки), *сугучча* (созвучие) — Вып. 15. «Слоўнік граматычна-лінгвістычнай тэрміналогіі. (Праект)»; *няплоднасць глебы* (бесплодие почвы), *сьвідраваньне глебы* (бурение почвы), *шрубавы плуг* (винтовой плуг) — Вып. 24. «Слоўнік тэрміналогіі агульнай раслінагадоўлі» і інш.; б) шукалі крыніцы навуковай тэрміналогіі (навуковыя тэксты па розных галінах ведаў) і распісвалі іх на карткі (толькі Вып. 24. «Слоўнік тэрміналогіі агульнай раслінагадоўлі» ў якасці крыніц тэрміналагічнай лексікі прыводзіць 30 назваў навуковых прац па земляробстве на рускай і беларускай мовах і 14 назваў на нямецкай мове); в) падбіралі іншамоўныя лексічныя адпаведнікі да беларускіх тэрмінаў [акрамя рускіх эквівалентаў да беларускіх тэрмінаў ва ўсіх 24 выпусках, шэраг выпускаў (5, 6, 9, 12, 13 і 20) змяшчае яшчэ і лацінскія назвы, у 7-м выпуску прыводзяцца асобныя італьянскія музычныя тэрміны, у 18-м — лексічныя адпаведнікі на мове ідыш]; г) распрацоўвалі прынцыпы тэрмінатворчай працы і асвятлялі іх у навуковым друку; д) займаліся сістэматызацыяй і уніфікацыяй тэрміналагічнай лексікі; е) абагульнялі звесткі з розных беларускіх тэрміналагічных слоўнікаў, выдадзеных у рэспубліцы і за яе межамі.

Вынікам усёй гэтай карпатлівай і шматаспектнай працы спецыялістаў па розных галінах ведаў і супрацоўнікаў тэрміналагічных камісій Інбелкульта (з 1929 г.— Беларускай акадэміі навук) сталі падрыхтоўка і выданне наступных 24 выпускаў «Беларускай навуковай тэрміналогіі»: 1. Элементарная матэматыка. 1922; 2. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва. 1923; 3. Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назвы нябесных цел. 1923; 4. Тэрміналогія логікі і псіхалогіі. 1923; 5. Геалогія, мінералогія, крышталаграфія. 1924; 6. Батаніка: Агульная і спецыяльная. 1924; 7. Музычныя тэрміны. 1926; 8. Слоўнік лясных тэрмінаў. 1926; 9. Анатамічныя назвы. Агульныя назвы. Касцяведанне. Вязаведанне. 1926; 10. Тэрміналогія права. 1926; 11. Грамадазнаўства. 1927; 12. Назовы жывёл. 1927; 13. Анатамічныя назвы. Ч. 2. Ангіялогія. 1927; 14. Слоўнік матэматычнай тэрміналогіі. (Праект). 1927; 15. Слоўнік граматычна-лінгвістычнае тэрміналогіі. (Праект). 1927; 16. Слоўнік глебазнаўчай тэрміналогіі. (Праект). 1927; 17. Слоўнік бухгалтарскай тэрміналогіі. (Праект). 1928; 18. Слоўнік хімічнай тэрміналогіі. Ч. 1. Агульная хімія. (Праект). 1927; 19. Слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі. (Праект). 1928; 20. Анатамічныя назвы. Ч. 3. Неўралогія. 1929; 21. Слоўнік фізічнай тэрміналогіі. (Праект). 1929; 22. Не выйшаў; 23. Слоўнік педагагічных дысцыплін. (Праект). 1930; 24. Слоўнік тэрміналогіі агульнай раслінагадоўлі. 1930.

На 24-м выпуску выданне «Беларускай навуковай тэрміналогіі» не павінна было скончыцца. Як сведчыць план навуковай работы Інбелкульта на 1927—33 гг., у 1931—33 гг. павінны былі выйсці тэрміналагічныя слоўнікі па заалогіі, антрапалогіі, садоўніцтве і агародніцтве, ветэрынарыі, электратэхніцы, фінансавай справе, этнаграфіі, таваразнаўстве, гандлёвай справе, жывёлагадоўлі, археалогіі, мікрабіялогіі, гідраўліцы і іншых галінах навукі і вытворчасці (Архіў АН Беларусі, ф. 67, воп. 4, спр. 20. С. 69—70). Аднак сталінскія рэпрэсіі ў пачатку 1930-х гадоў супраць вядучых вучоных Беларускай акадэміі навук (звальненне іх з пасад і высылка за межы Беларусі) не дазволілі належным чынам закончыць запланаваную працу па падрыхтоўцы і выданні чарговых выпускаў «Беларускай навуковай тэрміналогіі».

*Літ.:* Байкоў М. Я. Аб нашай мовазнаўчай тэрміналогіі // Полымя. 1928. № 3; Красней В. П. Из истории создания и упорядочения белорусской национальной терминологии // Научно-техническая терминология. 1973. № 1; Подлужный А. И. // Состояние и перспективы терминологической работы в Белоруссии // Вопросы разработки научно-технической терминологии. Рига, 1973; Гуліцкі М. Ф. Беларуская савецкая тэрміналагічная лексікаграфія (20—30-я гады) // Бел. мова. Мн., 1980. Вып. 7.

*В. К. Шчэрбін.*

## БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (БелСЭ) — першы ў гісторыі беларускага народа універсальны даведнік па ўсіх галінах ведаў, 12 тамоў якога выйшлі з друку ў 1969—75 гг. Гэта выданне адыграла выключную ролю ў фарміраванні і нармалізацыі навуковага стылю сучаснай беларускай літаратурнай мовы, паколькі ў ім сабрана і апрацавана спецыялістамі больш за 100 тысяч тэрмінаў і наменклатурных назваў з розных сфер навукі, вытворчасці, культуры і мастацтва. У БелСЭ дадзены не толькі фармальныя і семантычныя характарыстыкі беларускіх тэрмінаў, але і ўсебакова раскрыта сутнасць тых навуковых паняццяў, прадметаў і з'яў, якія абазначаюцца гэтымі тэрмінамі. Укладальнікі БелСЭ творча выкарысталі вопыт лепшых айчынных і замежных энцыклапедый па адборы, сістэматызацыі і вызначэнні зместу шматлікіх тэрмінаў і разнастайных наменклатурных з'яў. У энцыклапедычных артыкулах адлюстраваны лексічныя і лексіка-стылістычныя нормы беларускага тэрмінаўжывання, само станаў-

ленне якіх часта адбывалася ў працэсе работы над артыкуламі БелСЭ.

Першыя спробы па ўкладанні слоўспіса будучай беларускай энцыклапедыі рабіліся яшчэ ў 1930-я гады. Так, у 1935 г. было падрыхтавана 15 выпускаў праектаў энцыклапедычных слоўнікаў па розных галінах ведаў. У даваенны час падрыхтаваны і часткова выдадзены шэраг грунтоўных тэрміналагічных слоўнікаў, дэфініцыі якіх, як правіла, змяшчаюць пэўныя звесткі энцыклапедычнага характару пра паняційны змест тэрмінаў. На жаль, масавыя рэпрэсіі супраць беларускай інтэлігенцыі ў 1930-я гады і велізарныя людскія, матэрыяльныя і культурныя страты, якія наша рэспубліка панесла ў гады Вялікай Айчыннай вайны, на доўгі час перапынілі працу па падрыхтоўцы і выданні энцыклапедычных, тэрміналагічных і іншых даведнікаў.

У 1967 г. паводле пастановы ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 30.12.1966 г. была створана Галоўная рэдакцыя БелСЭ. За кароткі тэрмін былі падрыхтаваны словаспісы і артыкулы першых тамоў. Паскораная падрыхтоўка і выданне шматтомнай беларускай энцыклапедыі сталі магчымымі дзякуючы калектыўным намаганням больш як 5 тысяч аўтараў — вучоных, спецыялістаў народнай гаспадаркі, дзеячаў культуры і мастацтва, выдаўцоў-рэдактараў БелСЭ. У БелСЭ змешчана 34 409 артыкулаў.

Універсальнасць і ўсеабдымнасць БелСЭ пры перадачы разнастайнай інфармацыі, абумоўленыя энцыклапедычным характарам даведніка, садзейнічалі актывізацыі лексічных рэсурсаў і пашырэнню стылістычных магчымасцей сучаснай беларускай літаратурнай мовы, а таксама значна паскорылі фарміраванне і ўпарадкаванне навуковай тэрміналогіі ў тых сферах навукі і вытворчасці, дзе беларуская літаратурная мова мела абмежаваны ўжытак. Неабходнасць перадаць сродкамі сучаснай беларускай мовы матэрыялы і звесткі пра жыццё малавядомых краін і народаў вымагала ўвядзення ў тэкст энцыклапедычных артыкулаў асобных іншамоўных запазычанняў, ка́лек, экзатызмаў, замежных геаграфічных назваў і ўласных імён, што пашырыла беларускі лексікон. Каб усебакова апісаць ці вызначыць розныя прадметы, паняцці, з'явы і падзеі, стваральнікі БелСЭ рацыянальна выкарысталі магчымасці ўсіх функцыянальных стыляў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, лексіку розных гістарычных зрэзаў і тэматычных пластоў. Так, для больш яскравага адлюстравання падзей з жыцця, культуры і побыту нашага народа ў мінулым аўтары артыкулаў шырока выкарыстоўвалі ўстарэлыя словы — розныя разрады гістарызмаў і архаізмаў: *алтын* (Т. 1. С. 264: «старадаўняя руская грашовая адзінка... На Беларусі алтын называўся шастаком»), *арбалет* (Т. 1. С. 411: «старажытная ручная зброя, якая спалучае лук і ложа з прыкладам»), *баскак* (Т. 2. С. 174: «чыноўнік мангольскага хана, які вёў улік насельніцтва і збіраў даніну на захопленай тэрыторыі. На Русі баскакі былі з сярэдзіны 13 ст. Пасля шэрага народных паўстанняў супраць жорсткасці баскакаў у 14 ст. збор даніны ханы даручылі рускім князям»), *браціна* (Т. 2. С. 398: «старадаўняя драўляная або медная шарападобная пасудзіна. Служыла і памінальным кубкам»), *бярдыш* (Т. 2. С. 522: «старадаўняя зброя з лязом у форме паўмесяца, з завостраным доўгім драўляным цаўём»), *віж* [Т. 3. С. 74: «службовая асоба ў судах Вялікага княства Літоўскага, якая сведчыла пра той ці іншы факт, даследавала акалічнасці спраў і давала па іх заключэнні суду». У сучаснай беларускай літаратурнай мове захаваўся аднакаранёвы дзеяслоў *віжаваць* («Тлумачальны слоўнік беларускай мовы». Т. 1. С. 489; «сачыць, наглядаць»)] і інш.

Да ўласна-лексічных архаізмаў можна аднесці словы *Абісінія* (Т. 1. С. 23: «старажытная неафіцыйная назва Эфіопіі»), *аснач* [Т. 1. С. 519: «рабочы па аснастцы і такелажы суднаў (да пашырэння самаходнага воднага транспарту). Аснасчамі называлі таксама бурлакоў, а на поўдні Беларусі — плытагонаў»] і інш.; да лексіка-фанетычных архаізмаў — тэрміны *бетлейка* — батлейка (Т. 2. С. 180: «беларускі народны тэатр лялек. Вядомы з 16 ст.»), *велыняне* — валыняне (Т. 2. С. 583: «усходнія славяне, якія ў 9—11 ст. жылі ў вярхоўях басейна Заходняга Буга і каля вытокаў Прыпяці») і інш.; да лексіка-марфалагічных — этнонімы *абадрыты* — бодрычы [Т. 2. С. 365: «племя палабскіх славян на ўзбярэжжы Балтыйскага мора ў ніжнім цячэнні р. Лабы (Эльбы)»], *важане* — *воты* — водзь (Т. 3. С. 140: «старажытнае фінскае племя, якое жыло ў паўночна-заходняй частцы Наўгародскай зямлі») і інш.; да лексіка-словаўтваральных — тэрміны *далёкабачанне* — *тэлевізія* — тэлебачанне (Т. 10. С. 381: «адзін з самых масавых сродкаў інфармацыі, адукацыі, палітычнага, культурнага і мастацкага выхавання насельніцтва») і інш.; да лексіка-семантычных архаізмаў — тэрмін *бабылі* (Т. 2. С. 51: «група беззямельных сялян на Беларусі ў 16—19 ст. ... У 2-й палавіне 19 ст. яны канчаткова зліліся з сялянствам. Тэрмін «бабылі» захаваўся, але набыў іншы сэнс: адзінокія, бяздомныя, збяднелыя людзі») і інш.



**Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, выдадзеная ў 1969—76.**

Даступнасць выкладу ў БелСЭ вымагала ў шэрагу выпадкаў выкарыстоўваць у тэксце энцыклапедычных артыкулаў поруч з дакладнымі, стылістычна нейтральнымі навуковымі тэрмінамі іх размоўныя і народнадыялектныя варыянты. Напрыклад, лексічныя дублеты тыпу *лера—рэля*— ліра [Т. 6. С. 383: «На Беларусі ў дарэвалюцыйны час ліра колавая — адзін з асноўных традыцыйных музычных інструментаў (называўся таксама лера, рэля), жабракі-лірнікі выконвалі пад яго акампанемент духоўныя канты, эпічныя песні. Удасканаленыя ліры з дыяпазонам у 2 актавы і поўнай храматычнай гамай уваходзяць у склад Дзяржаўнага народнага аркестра БССР»], *апрэснік*—праснак (Т. 8. С. 557: «печыва з прэснага цеста»), *шасціграшовік* — шастак (Т. 11. С. 302: «сярэбраная манета Польшчы і Вялікага княства Літоўскага вартасцю ў 6 грошаў»), а таксама асобныя сінанімічныя пары і нават рады тыпу *Мілавіца* — Венера (Т. 3. С. 23: «другая па парадку ад Сонца планета Сонечнай сістэмы»), *запаленне лёгкіх* — пнеўманія (Т. 4. С. 493: «вост-

рыя і хранічныя запаленні бронхаў, альвеалярнай або прамежкавай злучальных тканак лёгкіх»), *абабак — бабка — бярозавік — чорнагаловік —* падбярозавік (Т. 7. С. 600: «ядомы шапкавы грыб сямейства балетусавых») і інш.

У рэестр БелСЭ свядома не ўключаліся тыя дыялектныя і размоўнабытавыя словы, якія ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» падаюцца з абмежавальнай паметай «абласное» ці «размоўнае»: *аплік, аруд, асвер, блазнюк* і інш. Аўтарам энцыклапедычных артыкулаў часта даводзілася займацца не толькі адборам і сістэматызацыяй беларускай навуковай тэрміналогіі, але і ажыццяўляць спецыяльныя даследаванні для вызначэння і ацэнкі сутнасці тых пазамоўных фактаў і з'яў, якія абазначаліся навуковымі тэрмінамі. Так, толькі па мовазнаўстве было падрыхтавана каля 500 энцыклапедычных артыкулаў, многія з якіх («Беларуская мова», «Дыялекталогія», «Мовазнаўства», «Мовы свету» і інш.) з'яўляюцца сапраўднымі навуковымі даследаваннямі. У шэрагу выпадкаў укладальнікамі БелСЭ уведзены новыя, часам надзвычай удалыя і ёмістыя тэрміны, такія, як *зорныя скопішчы* (Т. 4. С. 598: «групы зорак, якія звязаны паміж сабою сіламі ўзаемнага прыцяжэння і маюць агульнае паходжанне»), *радовішча карыснага выкапня* (Т. 9. С. 31: «прыроднае скопішча мінеральнай сыравіны ў межах пэўнай тэрыторыі»), *свідраванне* (Т. 9. С. 441: «утварэнне скразной або глухой цыліндрычнай адтуліны ў дэталі або вырабе з драўніны, металу і інш.; від апрацоўкі матэрыялаў рэзаннем», тэрмін выкарыстоўваецца таксама ў артыкулах, звязаных з геалогіяй), *свідравіна* (Т. 2. С. 483: «Свідравіны пры бурэнні робяцца паслядоўным разбурэннем горных парод з выдаленнем матэрыялаў на паверхню...») і інш.

Назапашаны ў першых 11 тамах БелСЭ вялікі тэрміналагічны матэрыял, размешчаны ў алфавітным парадку, удала падагульняецца ў пабудаваным па тэматычным прынцыпе 12-м томе БелСЭ. Для аблягчэння пошуку патрэбнага тэрміна, уласнага імя або геаграфічнай назвы ў асобны дадатковы том, выдадзены ў 1976 г., вынесены паказальнікі — прадметны, імянны, геаграфічных назваў. Усё гэта робіць БелСЭ пасапраўднаму зручным і карысным даведнікам. *В. К. Шчэрбін.*

## БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ СЛАВІСТАЎ

Беларускі камітэт славістаў — навуковая арганізацыя пры Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, прызначаная развіваць і каардынаваць даследаванні ў галіне славяназнаўства ў рэспубліцы, а таксама садзейнічаць навуковым сувязям беларускіх славістаў са славістамі іншых краін. Працуе ў цесным кантакце з Расійскім і Украінскім камітэтамі славістаў, разам з якімі праз сваіх членаў у Міжнародным камітэце славістаў прадстаўляе айчыннае славяназнаўства на міжнароднай арэне. Асноўнай задачай Міжнароднага камітэта славістаў з'яўляецца падрыхтоўка і правядзенне міжнародных з'ездаў славістаў і садзейнічанне працы створаных пры ім шматлікіх камісій па канкрэтных кірунках даследаванняў. Беларускі камітэт славістаў удзельнічае ў выпрацоўцы праблематыкі чарговых з'ездаў, уносіць прапановы па іх правядзенні, прапануе тэмы дакладаў ад Беларусі і садзейнічае іх своечасовай падрыхтоўцы і публікацыі, клапоціцца пра належнае прадстаўніцтва беларускай славістыкі як на з'ездзе, так і ў міжнародных камісіях. Камітэт прымае ўдзел у арганізацыі канферэнцый, сімпозіумаў і іншых мерапрыемстваў у межах рэспублікі, прысвечаных вывучэнню мовы, літаратуры, духоўнай і матэрыяльнай культуры славянскіх народаў, у першую чаргу беларусаў у іх сувязях з іншымі славянамі са старажытнасці да нашых дзён, падтрымлівае кантакты з замежнымі славістамі, якія займаюцца беларускай праблематыкай, арганізоўвае абмен літаратурай, удзельнічае ў падрыхтоўцы кніжных выставак у час міжнародных з'ездаў славістаў, імкнучыся як мага пауней прадставіць дасягненні беларускіх вучоных у галіне славяназнаўства і беларусістыкі.

Беларускі камітэт славістаў заснаваны ў 1957 г. як часовы орган для кіравання падрыхтоўкай вучоных Беларусі да 4-га Міжнароднага з'езда славістаў, што адбыўся ў 1958 г. ў Маскве. У 1959 г. пераўтвораны ў пастаянны камітэт, які функцыяніруе ў адпаведнасці са статутам Міжнароднага камітэта славістаў. Узначальвалі камітэт П. Ф. Глебка (1957—58), М. Р. Суднік (1959—85). Апошні склад камітэта, у які ўваходзяць вядомыя спецыялісты па мовазнаўстве, літаратуразнаўстве, фальклоры, этнаграфіі і гісторыі славян, зацверджаны прэзідыумам АН БССР у 1985 г. (старшыня А. І. Жураўскі). *Г. А. Цыхун.*

## БЕЛАРУСКІЯ ГРАМАТЫ

Беларускія граматы — гэта афіцыйныя і прыватныя пісьмовыя дакументы, якія здаўна ствараліся на старажытнарускай, пазней на старабеларускай глебе і функцыяніравалі як помнікі дзелавой літаратуры. У залежнасці ад зместу і службовага прызначэння граматы былі дагаворныя, прывілейныя, дароўныя, духоўныя, купчыя, ахоўныя, укладныя, даравальныя, устаўныя і інш., а таксама дазволы. З улікам прызначэння яны звычайна афармляліся паводле традыцыйных трафарэтных узораў, прынятых у старажытнарускім дзелавым пісьменстве. Тэкст укладных грамат звычайна пачынаўся традыцыйнымі старажытнарускімі зваротамі з указаннем іх аўтараў (пісцоў): **«се азъ** князь великии анофреи положилъ есми евангелье оу нашемъ монастыри» (каля 1399) або з некаторымі адметнымі рысамі беларускай мовы: **«се я** княгиня оглькгирдовая оульяния. оуставила есми на церковъ божию пречистои успения темянъщину» (каля 1377). Д а г а в о р н ы я граматы адрозніваліся іншым зместам зачынаў: **«тако хочемъ мы** горожане с мѣштеремъ. переже како вѣсити воскъ на скалвахъ» (каля 1330); **«мы князь дмитрии** олгѣрдовичъ. чинимъ знаменито. тымъ листомъ» (1388). Д а р а в а л ь н ы я: **«Владиславъ божье милости** король польскии. литовскии рускии. иныхъ земль господарь. чинимъ славно и знаемо. и даемъ ведомо оусемъ» (1387), **«Я князь Полоцкии** Ярославъ Ізаславовичь сознаваю симъ моимъ листомъ вечне и непорушно» (1396). Д а з в о л: **«милостию Божею,** мы великии князь Витовть ведомо чинимъ доброму, кто коли на сесь листь позрить» (1382). Заканчваліся граматы звычайна ўстойлівымі выразамі-формуламі з традыцыйным *аминъ*, якому папярэднічала абазначэнне месца і часу ўзнікнення дакумента: «Писанъ лисгь у Полотскоу лѣта отъ Рожества Христова тисячного трисотного осмдесятого третего, месяца Мая пятого дня» (1383).

Беларускія граматы ствараліся на смаленска-полацкіх землях і на іншых тэрыторыях, што ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага,— у Вільні, Троках, Маладзечне, Брэсце, Слуцку, Мсціславе і нават пры канцыляры польскіх каралёў у Кракаве. Мова іх неаднародная. Пад уплывам традыцыйнага старажытнарускага пісьменства ў іх даволі ўстойлівая кніжная моўная аснова, асабліва ў арфаграфіі, прыёмах пісьма з захаваннем непарушных формул. Разам з тым гэтыя тэксты данеслі да нас каштоўны матэрыял для вывучэння старабеларускай літаратурнай мовы ранняга перыяду. Нягледзячы на прыкметны след моўных напластаванняў старажытнарускай эпохі, многія граматы 14 ст. адлюстравалі ўздзеянне народнай гаворкі. У фанетыцы адбіліся замена этымалагічнага *ѣ* літарай *е* [*ехати, тобе, мне, у дворе собе, хотелъ, терпети* (1300); *володети* (1387); *обидети, на острове* (1399)], адпадзенне галоснага гука [и] у пачатку слова [*шолъ* (1300), *мѣли, збытку* (1347); *маютъ* (1389)]; зацвярдзенне шыпячых, *ц* і *р* [*нашъ* (1342); *такожъ, жыто, замужъ, ижъ, тожъ, мечъ, речъ,*

*грошъ, старшыи, три мѣсяцы, писаръ, рыцеръ* (1347), *речы, купуючы, рубаючы, иншые, нашымъ, божницы, улицы* (1389), *штожъ* (1399)], зацвярдзенне канцавога *в* [*цркв*ъ (1377, 1399)], пераход *е* ў *о* пасля шыпячых [*бочокъ, пришолъ, хочомъ* (1300), *жоне, чоломъ* (1342), *чолобитье* (1396), *чоловекомъ* (1400)], пераход суфіксальнага *-л* у *-в* у формах дзеясловаў прошлага часу мужчынскага роду адзіночнага ліку [*оубоявся* (1300)], замена *в* на *у* ў становішчы перад зычнымі [*у витьбескъ, у чомъ, у томъ, улюбилъ, оузяти* (1300), *оусхочеть* (1340), *уздати, увечеръ, оуступатися* (1347), *усю, оусякии* (1387)], замена *в* на *у* нескладовае, якое абазначалася на пісьме літарай *в* [*вказывалъ, въслышить* (1342); *вряду* (1347), *оув Озерищехъ* (1377), *вчинити* (1388)], наяўнасць афрыкаты *дж* [*ѣздживалъ* (1359)], якая часам перадавалася спалучэннем *жч* [*розъежчалъ* (1398)], чаргаванне заднеязычных *г, к, х* са свісцячымі *з, ц, с* [*в Ризѣ* (1300), *о пожозѣ дѣвцѣ, на дорозѣ, в руцѣ, о пастусѣ* (1347), *слузѣ* (1382), *нареце, владыцѣ* (1399)]. У некаторых полацкіх граматах адлюстраваны фанетычныя дыялектызмы, напрыклад, чоканне — вымаўленне зычнага *ч* замест *ц* (*человане, челованъ, немчи*) і цоканне — змяшэнне *ч* і *ц* [*доконцанъ, мець* (1300)].

Сярод марфалагічных асаблівасцей грамат даволі часта сустракаюцца: ужыванне рэчыўных і абстрактных, радзей канкрэтных назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку з канчаткам *-у(-ю)* [*воску* (1300), *хмѣлю* (1330), *утиску, гнѣву, вряду, часу, суду, початку, запису, роду, збытку, клопоту, свару, дому* (1347)], спалучэнне назоўнікаў мужчынскага роду з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* ў форме множнага ліку з канчаткам *-ы(-и)* [*ͮв берковескы, ͩд копи* (1300), *два гроши, четыри пальци, два волы, три годы* (1347)], формы на *-и* ў назоўніках меснага склону з мяккай асновай [*у клети* (1300), *у литовскои земли* (1387), *оу нашомъ монастыри* (1399)]; склонавыя формы неасабовых займеннікаў з каранёвымі галоснымі *ы, и* замест *ѣ* [*тымъ, чимъ* (1300), *тыхъ, кимъ, всихъ* (1347), *тыми* (1386), *тымъ* (1387), *всими, никимъ* (1399)] або з канчаткам *-е* ў жаночым родзе адзіночнага ліку роднага склону [*ласки нашое* (1342); *тое правды* (1386)]; інфінітыўныя формы на *-ть* [*закладывать, отдаливать* (1377)]; былыя дзеепрыметнікі на *-чи(ы)* [*разумѣючи* (1342); *будучи, прилучаючи, узнаваючи, укладаючи, меняючи, не имаючи, выймуючи, не дбаючи, хотячи, чинячи* (1347), *чтучи* (1398)]; прыназоўнік-прыстаўка *з(ъ)-* на месцы ранейшых *с(ъ)-, из(ъ)-* [*зъ своимъ, зъ гнѣву, зъ его початку, зъ добрымъ,*



**Грамата полацкага епіскапа (на пергаменце). 1300.**



**Укладная грамата кн. Анофрыя. 1399.**

*зъ братьею, зъ гоны, зъ нашихъ, збора, збѣгають* (1347)].

У сінтаксісе грамат можна адзначыць такую характэрную асаблівасць беларускай мовы, як выкарыстанне спалучэння назоўніка ў родным склоне з прыназоўнікам *до* замест прыназоўнікаў *къ, въ* плюс давальны або вінавальны [*Янъ... медъ несъ до своего дому; пожегъци... до костела утекуть; животину иметь гнать до оборы; пастухъ... овцю приганилъ до села* (1347)].

Значнае месца ў лексіцы грамат займаюць агульнаўжывальныя словы, якія без асаблівых змен захаваліся ў беларускай мове да нашага часу. Сярод іх пераважаюць словы для абазначэння розных бытавых прадметаў і з'яў [*жито, кривда, ыстобъка* (1300), *повѣть, пожитки, сѣножать* (1383), *млынъ, податокъ, светка, скарбъ, справа* (1389), *потреба* (1396)] і іншыя словы і формы [*боронити, ведати* (1300), *гаи, налѣпеи, нехаи* (1342), *лѣпшии, оучинити, хто, што* (1387), *николи* (1388), *иншии, належити, почати, робити, умоцнити, ховати, чынити* (1389)]. Асобную частку лексікі складалі афіцыйныя і мясцовыя тапанімічныя назвы [*витебскъ, полотьскъ, литва, смоленскъ* (1300), *озерище* (1377), *городня* (1342), *троки, немонъ, ковно, пропошескъ* (1387), *молодечно* (1388), *вилня* (1389), *краковъ* (1394), *двина* (1396), *дриса* (1399), *берестье* (1400), *анципорово, дмитрьево, груздовица, лебедево, лѣпуны, тургкенево* (1387)], імёны і прозвішчы людзей [*яковъ, михаилъ, прокопии* (1300), *оульяния* (1377), *василии карачовскии* (1383), *семенъ гавриловичъ, прокофеи ивановичь, глѣбъ васильевичь* (1386), *борисъ меркурьевичь* (1388), *яшко олешиньскии* (1394), *андреи, анофреи* (1399)], гандлёвыя рэчыўныя назвы [*соль, воскъ, мѣдь, олово, хмѣль, смола, сало* (1300)], назвы прылад для ўзважвання гандлёвых тавараў [*скалвы* (1330)], грашовыя адзінкі [*гривна* (1300), *рубль* (1330), *гроші* (1377)], назвы жывёл і месца іх пасялення [*бобры, белки, пуща* (1387), *куници, река* (1399)].

Адлюстроўваючы істотныя рысы беларускай мовы, пісцы не пазбягалі ў тэкстах грамат элементаў кніжнай мовы, выпрацаваных у старажытнарускую эпоху. Данінай ранейшай традыцыі былі няпоўнагалосныя царкоўнаславянскія формы [*благословѣнье, благославляю* (1300), *владыка* (1399)], кніжныя словы [*како* (1300), *позрѣти* (1382), *молвити* (1387), *оузрѣти* (1398), *азъ* (1399)], устойлівыя словаспалучэнні [*пречистая матерь* (1387), *бити челомь* (1389)].

Устойлівымі ў граматах аказаліся некаторыя грэчаскія рэлігійныя тэрміны, якія пранік лі праз пасрэдніцтва старажытнарускай пісьмовай мовы [*митрополитъ* (1300), *манастырь, монастырь* (1387, 1399), *евангелистъ* (1387), *евангелие, игуменъ* (1399)].

Новай з'явай у дзелавым пісьменстве 14 ст. былі паасобныя лексічныя паланізмы [*валка* 'вайна' (1347), *панъ* (1342), *велебныи* 'прападобны, праасвяшчэнны', *оуставичнѣ* 'пастаянна, заўсёды' (1388), *вшелякии* 'разнастайны, усякі', *мешкати* 'жыць, пражываць', *подле* 'каля, паводле' (1389)] і некаторыя германізмы [*голдовати* 'пакарацца, залежаць ад каго-н.' (1388), *рада* (1382), *костелъ* (1389), *пѣнязь* 'грош' (1400)].

Хоць беларускіх грамат у 14 ст. было не так і многа, аднак яны адыгралі значную ролю ў далейшым развіцці беларускай літаратурнай мовы.

Сістэма пісьма беларускіх грамат заснавана на кірыліцы. Пісаліся граматы на пергаменце і паперы паўуставам і скорапісам, завяраліся пячаткамі, якія прывешваліся ў канцы тэксту пад апошнім словам.

Арыгіналы або копіі беларускіх грамат 14 ст. захоўваюцца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы (Масква), Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (Санкт-Пецярбург), Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў (Масква), Санкт-Пецярбургскім

аддзяленні архіва АН Расіі, Рыжскім гарадскім архіве і ў музеі Чартарыйскіх (Кракаў).

Беларускія граматы 14 ст. друкаваліся ў выданнях: «Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі...» (т. 1. Спб., 1846), «Граматы, якія датычаць зносін Паўночна-Заходняй Расіі з Рыгаю і ганзейскімі гарадамі ў XII, XIII і XIV стагоддзі» (Спб., 1857), «Руска-лівонскія акты» К. Нап'ерскага (Спб., 1868), «Старажытныя помнікі рускага пісьма і мовы X—XIV стагоддзяў» І. І. Сразнеўскага (Спб., 1863), «Віцебская старына» А. Сапунова (Т. 1. Віцебск, 1883), «Палеаграфічныя здымкі з рускіх грамат, пераважна XIV стагоддзя» А. І. Сабалеўскага і С. Л. Пташыцкага (Спб., 1903), «Украінскія граматы XIV і першая палавіна XV стст.» В. Розава (Т. 1. Кіеў, 1926), «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы» (Ч. 1—2. Мн., 1961—62), «Смаленскія граматы XIII—XIV стагоддзяў» (М., 1963), «Граматы XIV ст.» (Кіеў, 1974), «Полацкія граматы XIII — пачатку XVI стст.» (Ч. 1. М., 1977).

*Літ.:* Stang Ch. Die westrussische Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen. Oslo, 1935; Яго ж. Die altrussische Urkundensprache der Stadt Polozk. Oslo, 1939; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984; Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII ст. Мн., 1988.

*У. В. Анічэнка.*

## «БЕЛАРУСЫ» Я. Ф. КАРСКАГА

«Беларусы» — даследаванне акадэміка Я. Ф. Карскага, прысвечанае беларускай мове, літаратуры і народнай творчасці з 13 да 1-й чвэрці 20 ст. ўключна. Па глыбіні навуковага асвятлення, шырыні ахопу фактаў, культурна-грамадскай значнасці даследаванне не мела на той час роўных сабе філалагічных прац ні ў адной славянскай краіне. Выхаду ў свет «Беларусаў» папярэднічала шматгадовая напружаная праца Я. Ф. Карскага над гістарычнымі крыніцамі (пісьмовымі помнікамі дзелавога, мастацкага, публіцыстычнага, рэлігійнага, юрыдычнага, летапіснага зместу), фальклорна-этнаграфічнымі запісамі 19 — пачатку 20 ст. і, галоўнае, вывучэнне жывой беларускай мовы ва ўсёй разнастайнасці яе тэрытарыяльных і сацыяльных гаворак.

Праца складаецца з трох тамоў, прычым 2-і і 3-і тамы змяшчаюць па тры часткі (выпускі). Усяго было апублікавана сем кніг «Беларусаў» агульным аб'ёмам 3105 друкаваных старонак. Першы том пад назвай «Беларусы. Уводзіны ў вывучэнне мовы і народнай славеснасці» выйшаў у Варшаве ў 1903 г. і быў перадрукаваны часопісам «Виленский временник» у 1904 г. Надзею на тое, што беларускі народ атрымае нарэшце доступ да сапраўднай навукі, аўтар выказаў эпіграфам з верша Я. Лучыны: «Сонца навукі скрозь хмары цёмныя // Прагляне ясна над нашай ніваю, // І будуць жыці дзеткі патомныя // Добраю доляй, доляй шчасліваю!».



Я. Ф. Карскі. «Беларусы». Т. 2 (тытульны ліст). 1912.

У прадмове да гэтага тома вызначалася асноўная задача: стварыць абагульняльную працу па беларускай мове, уключаючы ўсе факты з пісьмовых помнікаў, сучасных мясцовых гаворак, запісаў вуснай народнай творчасці, а таксама з літаратурных твораў, што з'явіліся ў друку ў 19 — пачатку 20 ст.

У 1-м томе «Беларусаў» аўтар даў шырокую гістарычную карціну паходжання беларускага народа. Акрэсліўшы геаграфічныя межы рассялення беларусаў, паказаўшы прыродныя, эканамічныя і сацыяльныя ўмовы іх жыцця ў канцы 19 — пачатку 20 ст., ён назваў іх суседзяў на захадзе (палякаў, літоўцаў і латышоў), на поўначы і ўсходзе (рускіх), на поўдні (украінцаў), затым прывёў цікавыя звесткі з пісьмовых помнікаў, у прыватнасці з летапісаў пра ўсходнеславянскія плямёны (дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў), якія жылі на тэрыторыі заходняй часткі Русі да ўтварэння Старажытнарускай дзяржавы. Аўтар даў звод тых моўных асаблівасцей, якімі беларусы сталі вылучацца з 13 ст. сярод іншых этнічных груповак усходняга славянства (невыбухны зычны *г*, нескладовы *ў*, зацвярдзелыя шыпячыя *ж, ч, ш*, афрыката *дж*, склады *гі, кі, хі* на месцы ранейшых *гы, кы, хы*, склады *ры, лы* на месцы ранейшых *ро, ло*, змяшэнне *ч* і *ц*, развіццё акання і якання). Побач са з'явамі, якія ў старабеларускай мове развіваліся ў выніку эвалюцыі гукавога і граматычнага ладу мовы ўсходніх славян, а таксама агульнаславянскай, Я. Ф. Карскі разгледзеў некаторыя лексічныя запазычанні старажытнага часу з моў фінскіх і іранскіх народнасцей; падрабязна апісаў станаўленне беларускай народнасці і яе мовы ў перыяд Вялікага княства Літоўскага, разгледзеў пытанні, звязаныя з этнічнымі назвамі «Белая Русь», «Чорная Русь», ахарактарызаваў паступовы працэс фарміравання сістэмы беларускай мовы згодна з яе адлюстраваннем у пісьмовых помніках і сучасных гаворках. Я. Ф. Карскі закрануў важнае пытанне пра ўзаемаадносіны беларускай мовы таго часу з украінскай, літоўскай і латышскай; асобна разгледжаны ўзаемасувязі беларускай мовы з польскай у перыяд знаходжання Беларусі ў складзе Польскага каралеўства. Тут аўтар паказаў прычыны пранікнення ў беларускія пісьмовыя помнікі і жывыя гаворкі фанетычных, граматычных і лексічных паланізмаў, ролю польскай мовы як пасрэдніка ў запазычанні лацінізмаў і слоў іншых заходнееўрапейскіх моў таго часу. У сувязі з пачаткам кнігадрукавання даследчык разгледзеў таксама ўплыў на беларускую мову чэшскай мовы, асабліва ў выданнях Ф. Скарыны; паставіў пытанне аднosна даўніх запазычанняў у беларускую мову лексічных элементаў з мовы кельтаў, грэкаў, лацінян, румынаў, дака-фракійцаў, германскіх народаў. Вучоны апісаў стан беларускай мовы 2-й палавіны 17 да канца 18 ст., асноўную ўвагу звярнуў на класіфікацыю жывых беларускіх гаворак у залежнасці ад фанетычных, граматычных і лексічных рыс; вылучыў 2 асноўныя дыялекты беларускай мовы: цвёрдаэры і мяккаэры, а ў складзе іх апісаў моцнаакаючую цвёрдаэрую гаворку, умеранаакаючую гаворку і больш дробныя ад іх адгалінаванні на ўсходзе, поўдні і захадзе Беларусі. У 1-м жа томе змешчаны «Нарыс вывучэння жывой беларускай мовы і народнай паэзіі», «Нарыс паступовага азнаямлення вучоных з помнікамі старой заходнярускай мовы. Вывучэнне самой мовы» і агляд «Ненародныя творы на сучаснай беларускай мове». Навуковыя вывады Я. Ф. Карскага пра беларускі народ і яго мову, зробленыя шляхам дэталёвага аналізу гістарычных, археалагічных, лінгвістычных і іншых крыніц, ілюструюцца дзвюма картамі: «Этнаграфічнай картай беларускага племені» і «Картай беларускай мовы», якія не страцілі навуковага значэння да нашага

часу. Так, на «Карце беларускай мовы» мы бачым групоўку беларускіх гаворак, якая ў асноўным правільна адлюстроўвае рэальны стан гукавога і граматычнага ладу народнай мовы ў канцы 19 — пачатку 20 ст. Гэта пацвярджаецца і тымі фактамі, якія адлюстраваны на картах «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» 1963 г. Такім чынам, «Карта беларускай мовы» Я. Ф. Карскага была першым крокам у распрацоўцы пытанняў лінгвістычнай геаграфіі беларускай мовы. У канцы 1920-х г. падобную спробу зрабіў П. А. Бузук (гл. **Бузук П. А.**), а дастойным завяршэннем пачатай Я. Ф. Карскім справы з'явіліся грунтоўныя даследаванні сучасных беларускіх дыялектолагаў.

Другі том выйшаў у свет у Варшаве ў 1908—12 гг. пад назвай «Беларусы. Мова беларускага племені» (перавыдадзены ў Маскве ў 1955—56 гг. пад назвай «Беларусы. Мова беларускага народа»). Гэты том складаецца з 3 частак (выпускаў): 1. Гістарычны нарыс гукаў беларускай мовы; 2. Гістарычны нарыс словаўтварэння і словазмянення ў беларускай мове; 3. Нарысы сінтаксіса беларускай мовы. Я. Ф. Карскі пісаў у прадмове да гэтага тома: «Матэрыял для II тома часткова ўзяты з папярэдніх даследаванняў аўтара... часткова зноў сабраны як з старажытных заходнярускіх твораў, вывучаных у апошні час, так і з жывых беларускіх гаворак; асабліва многа каштоўных дадзеных запазычана з 32 адказаў на беларускія праграмы, разасланыя Акадэміяй навук, а таксама з найноўшых зборнікаў народнай творчасці. Старыя і новыя матэрыялы па магчымасці праверany падчас камандзіроўкі аўтара ў 1903 г. і іншых неаднаразовых паездак на Беларусь. Выкарыстаны і тыя дадзеныя, якія ёсць у нешматлікіх даследаваннях па беларускай мове, а таксама па гісторыі і дыялекталогіі рускай мовы, што належаць пяру іншых асоб».

У 1-м выпуску 2-га тома вучоны паслядоўна і сістэматычна разгледзеў гукавы лад беларускай мовы. Ён даў агульную характарыстыку галосных і зычных гукаў сучаснай мовы, звярнуўся да арфаграфічных і палеаграфічных асаблівасцей заходнярускіх пісьмовых помнікаў, правёў глыбокі аналіз гукавых з'яў, пачынаючы ад агульнаславянскага і старажытнарускага перыядаў. Тут упершыню ў беларускім мовазнаўстве разгледжаны націск у розных граматычных формах часцін мовы, пры словаўтварэнні і спалучэнні слоў. Другі выпуск 2-га тома «Беларусаў» апублікаваны ў 1911 г. Яго змест — марфалагічны лад беларускай мовы (пад марфалогіяй вучоны разумеў не толькі сістэму форм скланення і спражэння, але і спосабы ўтварэння слоў з дапамогай марфалагічных сродкаў). Я. Ф. Карскі адзначыў, з аднаго боку, агульнасць марфалагічных сродкаў беларускай мовы з рускай і ўкраінскай мовамі, з другога — адметныя рысы, характэрныя толькі для беларускай мовы. Пра апошнія ён заўважыў: «Найгалоўнейшыя з'явы сучасных беларускіх гаворак у формах, параўнальна са старажытнарускімі, маюць наогул нямала адхіленняў, якія адбыліся пераважна ў выніку фанетычных прычын... а таксама ў выніку ўплыву адных форм на другія; тое-сёе, быць можа, запазычана ў суседзяў, асабліва, калі мы маем форму старой заходнярускай мовы або запіс з мясцовасці са змешаным насельніцтвам; часам даводзіцца бачыць дзеянне і іншых фактараў». Трэці выпуск 2-га тома, надрукаваны ў 1912 г., змяшчае апісанне сінтаксічнага ладу беларускай мовы. У гэтым выпуску аўтар «імкнуўся па магчымасці поўна прадставіць асаблівасці старой заходнярускай мовы і сучасных беларускіх гаворак, наколькі яны адлюстроўваюцца ў сабраных ім у ранейшы час, а таксама ў апошнія гады матэрыялах», пры апісанні сінтаксічных з'яў ён, нягледзячы на фармальна-граматычны падыход, карыстаўся і школьнай тэрміналогіяй, даступнай для чытачоў розныя лінгвістычнай падрыхтоўкі. У выпуску аналізуюцца тыпы простага сказа (адначленныя і двухчленныя), спосабы выражэння галоўных і даданых членаў сказа, упершыню разгледжаны тыпы беспрыназоўнікавых і прыназоўнікавых словазлучэнняў, тыпы двухчленных сказаў, тыпы складаных (складаназлучаных і складаназалежных) сказаў і іншыя з'явы сінтаксічнага характару.

Для мовазнаўства мае важнае значэнне і трэці том «Беларусаў», які змяшчае «Нарысы славеснасці беларускага племені»: вып. 1. Народная паэзія (М., 1916), вып. 2. Старая заходнеруская славеснасць (Пг., 1921), вып. 3. Мастацкая літаратура на народнай мове (Пг., 1922). Пры аналізе зместу, жанраў і стылістычных асаблівасцей фальклорных і літаратурных твораў даследчык разглядаў звычайна і тыя моўныя сродкі, з дапамогай якіх ствараюцца вобразы, сімвалы, пейзажы, перадаюцца пачуцці і перажыванні герояў (напрыклад, у казках, легендах, эпасе, гістарычных песнях, духоўных вершах і г. д.). Асаблівую ўвагу Я. Ф. Карскі звярнуў на мову літаратурных твораў 19—20 ст., падкрэсліўшы, што «ў цяперашні час каштоўнасць пісьменніка павінна ацэньвацца настолькі, наколькі мова яго твораў набліжаецца да народнай. Гэта і натуральна, бо блізкасць да народнай мовы спрыяе распаўсюджанню твораў у вялікай масе, ды апрача таго, народная мова ёсць корань і аснова мовы літаратурнай» (вып. 3. С. 277). Даследчык правёў цікавыя назіранні над мовай Я. Купалы, Я. Коласа, К. Буйло і іншых беларускіх пісьменнікаў: «Калі звярнуцца да мовы Луцэвіча, то, гаворачы наогул, не можам не прызнаць яе народнасці, удалага падбору выразаў» (тамсама. С. 279); «Мова вершаваных твораў Міцкевіча — чыста беларуская. Паланізмаў я не заўважыў, запазычанняў слоўнікавых з польскай амаль няма» (тамсама. С. 309); «Мова твораў Буйло недастаткова чыстая: ёсць паланізмы і нічым не апраўданыя неалагізмы і нават граматычныя няправільнасці» (тамсама. С. 348). З гэтага відаць, што Я. Ф. Карскі паклаў пачатак вывучэнню мовы сучаснай беларускай літаратуры, і гэта — яго вялікая заслуга перад філалогіяй.

Навуковымі планамі вучонага было прадугледжана таксама стварэнне поўнага слоўніка сучаснай беларускай мовы і слоўніка старабеларускіх пісьмовых помнікаў; свае думкі наконт гэтага ён выказаў у прадмове да 3-га выпуску 3-га тома «Беларусаў» у кастрычніку 1922 г. (с. 4—7). На жаль, ён быў надзвычай перагружаны разнастайнымі даручэннямі ў апошні перыяд жыцця і яму не давялося здзейсніць свае лексікаграфічныя задумы.

Трохтомнае даследаванне «Беларусы» займае выключнае месца як у гісторыі беларускай, так і наогул славянскай філалогіі. Вядомы славіст М. С. Дзяржавін пісаў: «Над ім (даследаваннем.— *М. Б.*) аўтар працаваў 38 з лішнім гадоў... да апошніх дзён жыцця і даў у ім агромністы фактычны і бібліяграфічны матэрыял па вывучэнні беларускай мовы, фальклору і літаратуры, што робіць гэту працу, у літаральным сэнсе гэтага слова, энцыклапедыяй беларускай філалогіі, адзінай па аб'ёме і багацці матэрыялаў працай у сусветнай літаратуры» (Вестник АН СССР. 1931. № 4. С. 22—23).

*Літ.:* Борковский В. И. От редактора // Карский Е. Ф. Белорусы: Язык белорусского народа. Вып. 1. Исторический очерк звуков белорусского языка. М., 1955; Яго ж. Заснавальнік беларускага мовазнаўства і беларускай філалогіі: (Да 100-годдзя з дня нараджэння акадэміка Я. Ф. Карскага) // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1961. Вып. 8; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды: Биобиблиогр. словарь. Мн., 1977. Т. 2; Яго ж. Евфимий Федорович Карский. Мн., 1981; Ляпунов Б. М. Очерк жизни и деятельности академика Е. Ф. Карского // Изв. АН СССР. Сер. 7. Отд. обществ. наук. 1932. № 3.

*М. Г. Булахаў.*

## БІДАР ГЕРМАН

Вядомы аўстрыйскі славіст, спецыяліст у галіне параўнальнага мовазнаўства Герман Бідар (Bieder) нарадзіўся 21 кастрычніка 1941 г. ў Маркерсдорфе (Пілах, Аўстрыя). Вы-



шэйшую адукацыю атрымаў у Першай гандлёвай Акадэміі Венскага гандлёвага аб'яднання (1958—61) па спецыяльнасці «перакладчык з рускай мовы». Вывучэнне рускай мовы прадоўжыў у Венскім універсітэце (1961—65), дзе пазней працаваў перакладчыкам. Тамсама атрымаў вышэйшую адукацыю па славістыцы і ўсходнееўрапейскай гісторыі (1963—70), абараніў кандыдацкую дысертацыю (1970). З 1969 г. працаваў асістэнтам інстытута славянскай філалогіі Венскага універсітэта. У 1971—85 гг. асістэнт, у 1985—87 гг. выкладчык інстытута славістыкі Зальцбургскага універсітэта. У 1986 г. абараніў доктарскую дысертацыю. З 1987 г. дацэнт Зальцбургскага універсітэта. Дасканала авалодаў рускай, польскай мовамі, атрымаў добрыя веды па ўкраінскай і беларускай, чэшскай, сербскахарвацкай, балгарскай, англійскай і французскай. Такое грунтоўнае і шырокае веданне еўрапейскіх моў дае яму мажлівасць весці лінгвістычныя даследаванні ў шырокім параўнальным дыяпазоне.

Г. Бідар распрацаваў і прачытаў шматлікія курсы як па агульнай славістыцы, русістыцы, паланістыцы, так і па ўкраінскім і беларускім мовазнаўстве. Найбольш значнае адлюстраванне беларуская тэматыка знайшла ў цыклах лекцый «Нямецка-славянскія моўныя кантакты», «Тэорыя моўных кантактаў», «Уводзіны ў славянскую лінгвагеаграфію», «Уводзіны ў славянскае мовазнаўства» і інш. Непасрэдна беларускай тэматыцы прысвечаны курс «Беларуская мова для русістаў» (1982).

Даследчая дзейнасць Г. Бідара сканцэнтравана галоўным чынам у сферы славянскай, германскай і агульнай семантыкі, словаўтварэння і фаналогіі, лексікалогіі. Яна ахоплівае і такія кірункі мовазнаўства, як сінхронная і дыяхронная лінгвістыка, моўныя кантакты, эвалюцыя моў, гісторыя мовы, лінгвагеаграфія і інш. Аб'ектам даследавання Г. Бідара стала старабеларуская мова 14—17 ст. Шмат увагі аддае ён вывучэнню германізмаў, а таксама вызначэнню ролі нямецкіх словаўтваральных элементаў у старабеларускай мове. Важнае значэнне ў гэтым кантэксце набывае вывучэнне некаторых лінгвістычных аспектаў старабеларускай юрыдычнай мовы Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 і 1588 гг. Робіцца спроба на аснове фанетычных асаблівасцей вызначыць шлях лексічных германізмаў у старабеларускую мову праз пасрэдніцтва польскай мовы з улікам слоў не толькі пісьмовага, але і дыялектнага паходжання. Самая значная праца Г. Бідара — манаграфія (доктарская дысертацыя) «Нямецкія словаўтваральныя элементы ў славянскіх мовах» (т. 1—2, 1985). У ёй разглядаюцца пытанні засвоення лексічных словаўтваральных элементаў нямецкага паходжання ў славянскіх мовах, спалучэння словаўтваральных марфем нямецкіх назоўнікаў і дзеясловаў са славянскімі каранёвымі марфемамі. Звяртаецца значная ўвага на аналагічныя працэсы ў беларускай мове, раскрываецца роля і значэнне нямецкіх словаўтваральных марфем як плённага сродку ўзнікнення новых беларускіх слоў. Характэрна, што даследаванне нямецка-беларускіх моўных кантактаў Бідар праводзіць у шырокім агульнаславянскім кантэксце. Такі метад спрыяе стварэнню агульнаславянскага геаграфічнага атласа запазычанняў, удасканаленню нашых ведаў пра шляхі і храналагічныя пласты нямецкіх запазычанняў у славянскіх мовах, у тым ліку і ў беларускай. Такія даследаванні далі аўтару мажлівасць стварыць аб'ёмную картатэку «Слоўніка германізмаў у старабеларускай мове», які рыхтуецца да выдання.

Вучоны рыхтуе таксама абагульняльную манаграфію пра нямецка-славянскія моўныя кантакты ад позняга сярэднявечча да сучаснасці з улікам міжславянскіх і славянска-нямецкіх сувязей. Паралельна праводзіцца работа над стварэннем шматтомнага «Слоўніка германізмаў у славянскіх мовах. 1300—1800». У апошні час значнае месца ў даследчай працы Бідара займае выданне славянскіх рукапісаў і першадрукаў з аўстрыйскіх бібліятэк. Здадзены ў выдавецтва зборнік «Славянскія рукапісы Зальцбургскай універсітэцкай бібліятэкі».

Дзякуючы беларускамоўнай даследчай дзейнасці Г. Бідара ў аўстрыйскай славістыцы ўпершыню склаліся спрыяльныя ўмовы для шырокага параўнальнага вывучэння як міжславянскіх, так і нямецка-славянскіх моўных кантактаў. Навуковая дзейнасць Г. Бідара па параўнальнаму даследаванню славянскіх і нямецкай мовы з падключэннем беларускай спрыяе як ліквідацыі белай плямы ў аўстрыйскай славістыцы, што існавала там больш за стагоддзе, так і вырашэнню пэўных праблем гісторыі беларускай мовы.

*Тв.:* Das Litauische Statut von 1529: (Bemerkungen zur historischen Orthographie und Phonetik der Altweissrussischen Rechtsprache) // Wiener Slawistisches Jahrbuch. 1973. Bd. 18; Das Litauische Statut von 1588: (Die Phonetik des westrussischen Originals im Vergleich zur polnischen Übersetzung) // Studia z filologii polskiej i słowiańskiej. 1974. T. 14; Zur Erforschung des deutschen Lehrgutes im weisrussischen. Schrifttum des 14. bis 17. Jahrhunderts // Opuscula Slavica et Linguistica. 1976; Zur Rolle des Polnischen bei der Übername von deutschen Lehrgut ins westrussische (weißrussischeukrainische) Schrifttum des 14—17. Jhs. // Symposium Slavicum. München, 1976; Die Rolle des Polnischen bei den älteren deutsch-westrussischen lexikalischen Lehrbeziehungen (phonetisch-phonologischer Aspect) // Wiener Slavistisches Jahrbuch. 1978. Bd. 24; Die morphologische Adaptation deutscher Substantiva in Altweissrussischen Sprachdenkmälern wus der Sicht der deutschen historischen Morphologie // The Journal of Byelorrussian Studies. London, 1978. Vol. 4, пг. 2; Die deutschen — „er-“ Bildungen in den westrussische Texten aus der Sicht der deutscher und slavischen Wortbildung // Symposium Slavicum 1977. Innsbruk, 1980; Der deutschslavische Sprachkontakte in der Wortbildung (Derivation) // Sprach- und Kulturkontakt im Polnischen. München, 1987; Die Suffixattraktion deutscher Lehnwörter (Substantiva) in den slavischen Sprachen // Die Welt der Slaven. München, 1988. Jb. 33. N. 1.

*У. А. Сакалоўскі.*

## БІРЫЛА МІКАЛАЙ ВАСІЛЕВІЧ

Беларускі мовазнавец М. В. Бірыла нарадзіўся 10 верасня 1923 г. ў в. Скварцы Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. У 1947 г. скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Акадэмік АН Беларусі (1977, член-карэспандэнт 1972), доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). З 1947 г. працаваў у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН Беларусі. У 1956—58 гг. прафесар кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. З 1959 г. загадчык сектара навуковай тэрміналогіі, з 1965 г.— сектара сучаснай беларускай літаратурнай мовы і культуры мовы Інстытута мовазнаўства АН Беларусі. З 1977 г. адначасова выконваў абавязкі акадэміка-сакратара, у 1982—92 гг.— акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук, з 1992 г.— саветнік пры Прэзідыуме АН Беларусі. Памёр 30 верасня 1992 г.

Галоўныя аб'екты навуковых дасле-

даванняў М. В. Бірылы — беларуская дыялекталогія, сучасная літаратурная мова, анамастыка. У галіне дыялекталогіі яго ўвагу прыцягвала лінгвагеаграфія. Ад самага пачатку і да завяршэння выдання вучоны актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы комплексу работ «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963) і «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69), за які ў 1971 г. М. В. Бірылу разам з іншымі аўтарамі прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР. М. В. Бірыла — адзін з сааўтараў і рэдактараў шматтомнага «Лексічнага атласа беларускай мовы» (т. 1, 1992).

З 1958 г. ён адзін з выканаўцаў і кіраўнікоў лінгвагеаграфічнай працы «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас» (АЛА), якая выконваецца вялікім міжнародным калектывам. Першыя выпускі АЛА апублікаваны ў 1988 г. Пры распрацоўцы дыялекталагічнай тэматыкі М. В. Бірыла шмат увагі аддаў даследаванню фанетыкі беларускіх народных гаворак, у прыватнасці націскнога вакалізму, вынікаў пераходу *е* ў *ё(о)*, рэфлексаў агульнаславянскіх *о, ъ, ѣ, е, ь,* этымалагічна мяккіх губных, парных па цвёрдасці — мяккасці *д — дз(д'), т — ц(т')* і інш. Удзельнічаў у падрыхтоўцы «Хрэстаматыі па беларускай дыялекталогіі» (1962), «Нарысаў па беларускай дыялекталогіі» (1964).



У «Курсе сучаснай беларускай літаратурнай мовы» (у сааўтарстве; 1961), манаграфіях «Націск назоўнікаў у сучаснай беларускай мове» (1986), «Беларуская граматыка» (у сааўтарстве; ч. 1—2, 1985—86), у шэрагу артыкулаў М. В. Бірыла даследаваў пытанні фанетыкі, арфаэпіі, акцэнтуацыі.

Шмат увагі вучоны аддаў лексікаграфіі. Яго артыкул «Да пытання аб тыпе і прынцыпах укладання беларускіх абласных слоўнікаў» (Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. 1958. Вып. 5) значна паўплываў на развіццё рэгіянальнай лексікаграфіі ў рэспубліцы. М. В. Бірыла прымаў удзел у падрыхтоўцы і рэдагаванні «Падручнага польска-беларускага слоўніка» (разам з А. Абрэмбскай-Яблонскай; Варшава, 1962), «Руска-беларускага слоўніка грамадска-палітычнай тэрміналогіі» (Мн., 1970), слоўніка «Славянская анамастычная тэрміналогія» (Скопле, 1983), «Слоўніка беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (Мн., 1987).




Працы М. В. Бірылы.

М. В. Бірыла быў заснавальнікам новага ў беларускім мовазнаўстве кірунку — анамастыкі. Ён аўтар трохтомнай манаграфіі «Беларуская антрапанімія»: т. 1 — «Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы» (1966), т. 2 — «Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі» (1969), т. 3 — «Структура ўласных мужчынскіх імён» (1982). У апошнія гады жыцця даследчык працаваў над чацвёртым томам «Беларускай антрапаніміі» (уласныя асабовыя жаночыя імёны), «Слоўнікам беларускіх прозвішчаў», «Анамастыконам Вялікага княства Літоўскага XVI ст.». У гэтых і шэрагу іншых работ вучоны даследаваў лексічны склад, структуру і ўтваральную базу сучасных беларускіх прозвішчаў, эмацыянальна-ацэначныя формы як сучасных уласных асабовых імён, так і імён 16—18 ст., сучасную беларускую антрапанімічную сістэму і працэс яе фарміравання, тыпалогію славянскіх прозвішчаў, узаемасувязі беларускай антрапаніміі з антрапаніміяй рускай, украінскай, польскай і літоўскай моў. З дакладамі па анамастычнай праблематыцы М. В. Бірыла выступаў на V—VII і IX Міжнародных з'ездах славістаў.

М. В. Бірыла ў 1958 г. выбраны старшынёй беларускай камісіі і членам міжнароднай камісіі (з 1978 намеснік старшыні) АЛА, у 1968 г.— членам Міжнароднай камісіі па славянскай анамастыцы. У 1982—92 гг. быў галоўным рэдактарам часопіса «Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук».

*Тв.*: Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў (рускай, украінскай, польскай). Мн., 1963; Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы. Мн., 1968 (разам з А. П. Ванагасам); Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах: (Адантрапанім. айконімы). Мн., 1973 (разам з В. П. Лемцюговай); Гаворкі Чырвонаслабодскага раёна Мінскай вобласці // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 4; Рэфлексы агульнаславянскіх *о, ъ, ѣ, е, ь* у беларускіх гаворках // Тамсама. Мн., 1959. Вып. 6; Да пытання аб фарміраванні і важнейшых нормах беларускага літаратурнага вымаўлення // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1958. № 3; Кандрат Крапіва — мовавед // Тамсама. 1971. № 3; Роля Якуба Коласа ў развіцці беларускай літаратурнай мовы // Тамсама. 1982. № 5; Тыпалогія і геаграфія славянскіх прозвішчаў. Мн., 1988.

*Літ.*: Жураўскі А. І. У скарбніцу роднай мовы: (Да 60-годдзя з дня нараджэння акадэміка АН БССР М. В. Бірылы) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1983. № 4; Арашонкава Г. У., Лемцюгова В. П. Акадэмік Мікалай Васільевіч Бірыла: (Да 60-годдзя з дня нараджэння) // Бел. лінгвістыка. Мн., 1983. Вып. 24.

*І. К. Германовіч.*

У аўтабіяграфіі, датаванай 10 снежня 1962 г., народны паэт Беларусі (1962) Пятрусь Броўка пісаў: «Да гэтага часу памятаюцца бясконцыя сцежачкі і дарожкі на лугах і палях вакол роднай вёскі, задумлівы гоман сасновага лесу, баравыя астравы сярод бяздоння адвечных балотаў. Безліч птушыных галасоў, напевы ветру, шум калматых ялін, нават шэпт лугавых траў навечна напоўнілі сэрца.

А песні вясковых жней! Успамінаю, і здаецца, нясуцца яны, працяглыя і крыху сумныя, уздоўж вузенькіх даспелых шнуркоў, жаўтаватых на выгляд, ажно да сіняга неба, што прыкрывала вострыя вяршаліны бору на небасхіле» (54 дарогі: Аўтабіяграфіі бел. пісьменнікаў. Мн., 1963. С. 55). У найпаўнейшай аўтабіяграфіі майстра нашага мастацкага слова — яго паэзіі — нават самі назвы твораў адлюстроўваюць родныя памятныя вобразы: «Дарагое», «Зямля», «Радзіме», «Раніца», «Роднае», «Родны край», «Беларусь», «Бацькаў дом», «Родныя берагі», «Голас сэрца» і інш.

Нарадзіўся П. У. Броўка 25 чэрвеня 1905 г. ў в. Пуцілкавічы Ушацкага р-на. Акадэмік АН БССР (1966, член-карэспандэнт з 1953). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). У 1931 г. скончыў БДУ. У 1945—48 гг. рэдактар часопіса «Полымя», у 1948—67 гг. старшыня праўлення СП Беларусі, у 1967—80 гг. галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР 1947 г. (за паэму «Хлеб», вершы «Думы пра Маскву», «Брат і сястра», «Народнае дзякуй», «Каб мне стаць...», «Спатканне») і 1951 г. (за зб. «Дарога жыцця», 1950 г.), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа 1959 г. (за раман «Калі зліваюцца рэкі», 1957 г.), Ленінскай 1962 г. (за зб. «А дні ідуць...», 1961 г.), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы 1969 г. (за зб. «Між чырвоных рабін», 1969 г. і паэму «Заўсёды з Леніным», 1967), Дзяржаўнай прэміі БССР 1976 г. за ўдзел у выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Памёр 24 сакавіка 1980 г.

Паэзія П. Броўкі цесна звязана з жывой гутарковай мовай народа, з фальклорам [частае ўжыванне выклічнікаў: *Ой, ды над узгоркамі // Зоры срэбра-ясныя!* («Залатымі зоркамі...»), *Ах, добра як...* («Дарагое»); форм іменных часцін мовы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі і поўнымі канчаткамі: *бярозка, сонейка, сэрцайка, карміцелька, звонкае песні, такою ціхаю хадою* і інш.; зваротнікаў і прыдаткаў: *Дык не шапчы, мая бярозка...* («Ой, не шапчы, мая бярозка...»), *Ой ты, рэчка і смутак ты мой...* («Майскім раннем я вас пакідаў...»), *Вітаю свету новы росквіт // І Беларусь, маю красуню!* («Ой, не



шапчы, мая бярозка...); паўтораў: *Чуць свет, чуць сонейка устане* (тамсама); постпазіцыйных азначэнняў: *У вечар росны, // Вечар мглісты* (тамсама), *Пахваліся працаю // Цяжкай...* («На новыя мы сталі рубяжы»), *Кліча гудок стогалосы...* («Гады, як шторм»); традыцыйных эпітэтаў: *любая дзяўчына, луг мурожны, хвіліны шчасныя, вачамі сумнымі, буйнымі ветрамі*].

У ранніх творах паэт імкнуўся абнаўляць і пашыраць структуру беларускай вершаванай і празаічнай мовы, выкарыстоўваючы т. зв. індустрыяльную лексіку і фразеалогію, рытарычныя фігуры, разнастайныя элементы прамоўніцкага маўлення: *завод, домна, варштат, рубільнік, індустрыя, дыяграма, электравагоны, трамваі, трактары, матор, радыё, брыгадзір* і інш., словазлучэнні: *дымлівыя фабрыкі, стаяць павільёнаў строі, прыкаваны машынай, скрозь ударна стаім, сапраўдны пульс фабрычнага жыцця, арганізаваць рабочую брыгаду* і г. д., складанаскарочаныя словы накшталт *нардом, фабком, рабкор, прамфінплан, драмгурток* і інш., тагачасныя састаўныя найменні тыпу *савецкая індустрыя, фабрычны клуб, пяцігодкі стройны марш, машыннае аддзяленне, рэдактар шматтыражкі, загадчык сектара рацыяналізацыі і забеспячэння, падшэфная часць Чырвонай Арміі* і інш. У зачынах і канцоўках, нават у назвах некаторых вершаў П. Броўкі як неад'емная частка ўжываецца слова *таварыш* у розных яго формах, асабліва клічных, як афіцыйны зварот («Камсамольцам», «Сёння слова бяру», «Пра вайну»,

Родная песня

Жыць без цябе [illegible], сумна і цесна,
О, як мяне ты ўзняла, родная, любая песня.

Ты навучыла [illegible] кавалачак хлеба,
Зоры дарыла ты мне [illegible] неба.

Хто цябе змалку пачуў, той ад [illegible] не зверне,
Кожнае слова тваё, [illegible], што ў коласе зерне.

Песня стагоддзі ішла. [illegible] навівала,
~~Слова [illegible] яе, [illegible]~~
~~[illegible]~~

Слава [illegible] ветры, каб [illegible],
Каб мы адзін аднаго чулі далёка-далёка...

Аўтограф верша П. Броўкі «Родная песня».

«Браты», «Смерць таварыша Хахлова» і інш.), рытарычныя пытанні і заклікі (*Што слёзы аднаго, што роспач і надломы // У буры песень, веры і надзей?* — «Гады як шторм»; *Наперад! // Наперад, як можна заняць, // Наперад!* — «Сёння слова бяру»), камбінацыі розных відаў інтанацыі (*Стой! // Вартавы, як заведзены, крочыць... // Вільня, Лукішкі. Пярэдні план. // Гэта турма раве да паўночы // Крывёю рабочых, // Крывёю сялян* — «Прамова фактамі»). Месцамі «пралетарскі» і «агітплакатны» характар набывалі самыя папулярныя сродкі паэтычнай мовы — метафары і параўнанні: *Гэй, камсамол! // Дазорамі станем // На барыкадах сусвету змагацца. // Першымі ў бойку выйдзем на вуліцы, // Выйдзем упарта, выйдзем нястомна! // Мы — маладыя, як рэвалюцыя, // Поўны агню, як гартоўныя домны. // Пойдзем нястрымаnаю ўсе паводкай, // Моцныя духам, як пяцігодка* («Камсамольцам»). Паступова ранняя «пралетарская», «агітплакатная» паэзія П. Броўкі, паэзія «цэхавых будняў» станавілася шчырай паэзіяй з сэнсава-паэтычнай значнасцю радка, трапнасцю і канкрэтнасцю мастацкага вобраза, прастатой паэтычнага выказвання. Паэтычную сталасць, філіграннае валоданне родным словам прадэманстраваў П. Броўка ў творах перыяду Вялікай Айчыннай вайны («Помста», «І выйдзе Беларусь з палону», «Будзем сеяць, беларусы», «Надзя-Надзейка», «Сыны», «Кастусь Каліноўскі», «Два клёны», «Балада пра чырвоны сцяг», «Паэма пра Смалячкова», «Беларусь» і інш.). Творы П. Броўкі 1950—60-х гадоў у зборніках «Пахне чабор», «А дні ідуць...», «Між чырвоных рабін» і інш. прынеслі славу і беларускаму нацыянальнаму мастацтву слова. Пісьменнік нібы вяртаецца ў пачатак сваёй творчасці, але ўжо мудрым філосафам з новым мысленнем і маўленнем, хоць і пераважна з традыцыйнымі моўна-выяўленчымі сродкамі. Усё часцей і часцей звычайныя словы ў паэтавым радку набываюць шматзначнасць, абагульнены характар, сімвалічнасць: *Беларусь... // На тваёй галаве // Хустка яркачырвоная, // Ты ва ўборах лясоў, // Маладая, зялёная!* («У сям'і з'яднанай»); *Значыць серп адышоў, // Як стары, ў адстаўку* («Серп»); *Складаная дарога ўдаль, // То дзень пагодны, // то імжа...* («Іржа»); *Сёння імкнёмся насустрач мы зорам, // Сёння не стрэльбамі ў свеце гаворым...* («Голас сэрца»). Надзвычай эфектыўныя ў пейзажнай лірыцы асанансы і алітэрацыя, якія памагаюць чытачу ўзнаўляць і ўяўляць спеў ручая («Ручай»), выццё завірухі і трэск-грукат марозу («Белы барабаншчык»), шум і гоман лета («Замалёўка»), свавольства ветру і нораў буры («Вецер і бура», «Асенні вецер») і інш. Паўторы як бы ўдакладняюцца зменай словаўтваральных афіксаў ці паўзы — *Чырваніць, чырваніць, чырваніць рабіна* («Чырваніць, чырваніць...»); *А думы, думы роем-роем...* (аднайменны верш); *Ах, вярба мая, вярба, вербачка, вярбінка!* («Ніцая вярба»). Вельмі частымі з'яўляюцца словы-сімвалы: *бяроза, скрыжаванне, раздарожжа, рабіна, клён, дуб, сасна, шпак, бусел, жаўрук, вясна, лета, восень, месяц, зоркі, сонца.* Побач з эпітэтамі *чырвоны, залаты* любімымі эпітэтамі пісьменніка становяцца *праменны, залацісты, агністы, незгасальны, цудадзейны, златакудры* і інш. Паэт стварае арыгінальныя словазлучэнні (*паходня міру; атамны, белы, паганы грыб; зялёным полымем шугае; неба звон празрыстасіні* і інш.), перыфразы і параўнанні (*Белы барабаншчык... // Грозны, неўгамонны, // З доўгімі рукамі, // Што агонь, пякучы — // Студзенькі мароз!* — «Белы барабаншчык»; *Вада няйначай кроў зямлі. // Яна — нязмернае багацце* — «Вада» і г. д.), метафары (...*Сонца за борам жарптушкай садзіцца* — «Пахне чабор»; *Ідзём. Святло перамагае // Няхай у барацьбе цяжкой* — «На перадавой»; *Не хачу, каб замест буслоў // Бамбавозы па небе плылі* — «Не хачу»; *Дзвіна! Дзвіна!.. І слова звоніць...*— «Размова з Дзвіною»; *І пяро маё гамоніць, і смяецца, і пяе* — «Пяро» і г. д.). Цесная сувязь П. Броўкі з жывой народнай мовай і фальклорам зрабіла шматлікія радкі пісьменніка па-народнаму простымі, гнуткімі, афарыстычнымі: *Таварышу я ўсё аддам, // Лепш дружба, чымся сварка* («Чаго не даклярую...»); *Нічога ў свеце больш няма // Мацней людскога розуму* («Не страшны здзекі, ні турма»); *Калі сумленны прад другімі, // Тады сумленны прад сабой* («Аб сумленні»); *Прыгожыя — не толькі тварам, // А тыя, ў кім душы святло* («Прыгожы чалавек»); ... *нават птушкі супраць буры // Сядзяць наперад галавой* («Ісці да мэты — ўстаць да ўсходу»); *Пражыць, як гавораць,— не поле прайсці, // Вучыцца не позна ніколі* (аднайменны верш); *Вайна зайсёды боль нясе* («Дахаты»); *Куды б цябе не завяла далёкая дарога,// Не забывай ніколі ты бацькоўскага парога* («Парог») і шмат інш.

Роднай мове і роднай песні П. Броўка неаднаразова прысвячаў палымяныя, сардэчныя і пяшчотныя радкі: *Дзяды і бацькі нашу мову стварылі, // Каб звонка звінела, была як агонь* («Родныя словы»); *Багата, родная ты мова, // Цябе стварыў і ўзнёс народ. // А вобразы якія ў словах, // А параўнанняў што за ўзлёт!* («Багата, родная ты мова...»); *Песня стагоддзі жыве. Моцы яна набірала. // Слова, ўскрыляючы нас, быццам маланка шугала. // Слова вастрылі вятры, каб узлятала высока, // Каб мы адзін аднаго чулі далёка-далёка...* («Родная песня»).

Многім творам П. Броўкі ўласціва вострая публіцыстычнасць з адпаведнымі моўна-выяўленчымі сродкамі. У вершаванай мове яго выкарыстана шмат празаізмаў, у празаічнай — паэтызмаў: *Рой жаночых галасоў і шабуршанне паперы, якую там лічылі і складалі ў роўненькія пакункі, былі падобны да прыбою на моры. Адна за другою, як чайкі, узляталі над галовамі рукі, прыгожа ўскідваючы пакункі паперы* («Каландры»); *А на дварэ сонца набірала сілы. Ужо не чырванаватыя морак вісеў у хаце, а чырвань як бы заліла ўсю сцяну за спіной Алеся, і ад гэтага стала ў хаце яшчэ больш урачыста* («Калі зліваюцца рэкі»). Услед за Я. Купалам, Я. Коласам, А. Куляшовым і іншымі П. Броўка развіваў і ўдасканальваў апавядальную мову народа.

*Літ.*: Пісьменнік і мова: Хрэстаматыя. Мн., 1962; 54 дарогі: Аўтабіяграфіі бел. пісьменнікаў. Мн., 1963; Ярош М. Пятрусь Броўка. Мн., 1981; Успаміны пра Петруся Броўку. Мн., 1986.

*М. В. Абабурка.*

## БРЫЛЬ ЯНКА



Янка (Іван Антонавіч) Брыль нарадзіўся 4 жніўня 1917 г. ў Адэсе. У 1922 г. пераехаў з бацькамі на іх радзіму (в. Загора Карэліцкага раёна). Скончыў польскую сямігадовую школу, працаваў на гаспадарцы, займаўся самаадукацыяй. Служыў у польскай арміі. Трапіў у нямецкі палон, адкуль уцёк восенню 1941 г. Быў партызанскім сувязным і разведчыкам, рэдагаваў падпольную газету «Сцяг свабоды», сатырычны антыфашысцкі лісток «Партызанскае жыгала». З кастрычніка 1944 г. ў Мінску. Працаваў у рэдакцыях газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну», часопісаў «Вожык», «Маладосць»,

«Полымя», у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі. Друкуецца з 1938 г. Першыя зборнікі «Апавяданні» (1946), «Нёманскія казакі» (1947). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР 1952 г. за аповесць «У Забалоцці днее», Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа 1963 г. за зборнік «Працяг размовы», Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа 1982 г. за аповесць «Золак, убачаны здалёк». Народны пісьменнік Беларусі (1981). На беларускую мову пераклаў асобныя творы Л. Талстога, А. Чэхава, М. Горкага, П. Бажова, Г. Траяпольскага, А. Вішні, Э. Ажэшкі, М. Канапніцкай, Б. Пруса, Я. Івашкевіча, Я. Бранеўскай і інш.

Я. Брыль — аўтар шматлікіх апавяданняў, аповесцей, мініяцюр, дзённікавых запісаў. Яго пяру належыць раман «Птушкі і гнёзды». Пісьменнік — прызнаны майстар лірычнай прозы. Напісанае ім прыцягвае перш за ўсё душэўнай шчодрасцю аўтара, яго неабыякавасцю, рознабаковымі ведамі. У творах пісьменніка — грамадзянскі клопат пра чалавека, пра яго сённяшні і заўтрашні дзень.

Творы пісьменніка вызначаюцца мастацкай дасканаласцю, а мова — лексічным, фразеалагічным, сінтаксічным багаццем. Брыль — адзін з найлепшых знаўцаў роднай мовы, тонкі, удумлівы стыліст. Мова пісьменніка «арганічна вырастае з усяго багацця мовы народа. Не асобныя слоўцы, а цэлую сістэму народных уяўленняў аб жыцці і чалавеку, сістэму народных ацэнак знаходзім мы ў яго творах» (Адамовіч А. Літаратура, мы і час. Мн., 1979. С. 108).

Жывая народная мова — у кожным творы, у тым ліку і ў арыгінальных мініяцюрах, знешняя прастата якіх можа навесці на думку, што Брылю проста пашанцавала пачуць іх. І не адразу становіцца відочна, што выверанасць, мастацкая вартасць кожнай рэплікі, кожнага слова — найпершы клопат пісьменніка:

— *І вы, бабуля, па гэтую рыбу ў чарзе стаіце? Адна душой жывучы?*

— *А што ж, мілы, і адно вока спаць хоча* («Жменя сонечных промняў»);

*Рамантык (крыху захмялелы):*

— *Ён, брат, як заспявае — шыбы звіняць!..*

*Рэаліст (цверазейшы):*

— *Вядома, братка, як дрэнна закітаваныя, дык і будуць звінець* («Абы на здароўе»).

Своеасаблівасць і непаўторнасць стылю Я. Брыля — у адборы і выкарыстанні моўных сродкаў, у здольнасці выявіць патэнцыяльныя магчымасці мовы, знайсці патрэбнае слова, выраз, фразеалагізм, ажывіць іх, надаць ім дадатковую сэнсавую і эмацыянальную вагу. У мастацкім апісанні пісьменнік звычайна не абмяжоўваецца простым пералічэннем уласцівасцей, рыс прадметаў і з'яў. Мастацкія азначэнні выяўляюць глыбіню асацыятыўнага мыслення аўтара, складаныя адценні яго пачуццяў і адначасова — імкненне да эканомнага, сэнсава-ёмістага выкладу (даліны — *прастрэленыя* сонцам, стагі — *абгладжаныя* дажджамі, паравозік — *фанабэрысты*, кірзачы маладзенькіх салдат на танцах — *сарамлівыя*, шчасце — *жудасна-часовае*, гул самалёта — *стрымана-радасны*, варажбіткі — *языкаста-рукастыя*). Аўтарскія азначэнні адлюстроўваюць светапогляд пісьменніка, яго індывідуальныя асаблівасці асэнсавання рэчаіснасці. Брыль бачыць навакольны свет у складанай прызме асацыяцый, заўважае аналогіі, якія дапамагаюць зразумець нябачныя на першы погляд сувязі паміж з'явамі. Так узнікаюць словазлучэнні ***прыплюшчаныя*** *вокны*, ***мазольная*** *праўда*, ***казённыя*** *вочы*, ***распагоджаны*** *твар*, ***сумныя, заплаканыя*** *вокны*, ***засмяглае*** *сэрца*, ***нішчымная*** *паўза* і інш., мастацкая вартасць якіх з усёй паўнатой раскрываецца ў кантэксце.

Актыўны сродак стварэння мастацкіх вобразаў у творах пісьменніка — кантэкстуальныя сінонімы, у ролі якіх выкарыстоўваецца рознастылёвая лексіка. Калі звычайныя сінонімы дазваляюць пазбегнуць паўтарэння, моўнай аднастайнасці, то кантэкстуальныя сінонімы маюць яшчэ адну — выяўленчую — мэту: выступаюць выразным характарыстычным сродкам. Так, герой апавядання «Бывае...» Іван Піліпавіч — *лепшы з лепшых, дачнік, дачнік-дэмакрат, Ён, таварыш Ён, не абы-хто, пераможца, трыумфатар, шышка, палкаводзец у ватніку, цесць-бацька-муж, няшчасны бюракрат, штатная адзінка...* Кожны новы кантэкстуальны сінонім пашырае і паглыбляе ўяўленне чытача пра галоўнага героя. Стылістычна-нейтральныя словы становяцца ацэначнымі, характарыстычнымі.

Пісьменнік — майстар мастацкай дэталі. Праз дэталь чытач бачыць вобраз такім, якім уяўляе яго сам аўтар. «Па тым, як Брыль адбірае мастацкія дэталі, як ён праз адну характэрную дэталь або сістэму дэталей выказвае сваё стаўленне да героя, да падзей, вы адчуваеце, як моцна з'яднаны ён з крыніцамі народнага жыцця» (Шкраба Р. Характар. Стыль. Дэталь. Мн., 1965. С. 77). Адна з надзвычай характэрных брылёўскіх дэталей — рукі. Нярэдка ўвесь вобраз сфакусіраваны на гэтай дэталі. Брыль паказвае рукі, а за імі паўстаюць характары. Рукі брылёўскіх персанажаў — *залатыя, умелыя, спрытныя, заўзятыя, спрацаваныя, моцныя, дужыя, гарачыя, цёплыя, халадноватыя, мазольныя, вузлаватыя, цяжкія, здаравенныя, касцістыя, загарэлыя, мяккія, тонкія, высахлыя, старыя, худыя, тоўстыя, доўгія, вялікія, малыя, маленькія, каравыя, карэлыя, нямытыя, брудныя, патрэсканыя, шурпатыя, набрынялыя, чорныя, сінія, белыя, гладкія, пшанічныя, капыцістыя, дрыжачыя, дрыготкія, няўпэўненыя, скаваныя, вялыя, без касцей, бяссільныя, анямелыя, учэпістыя, мядзведжыя...*

Параўнанні — неад'емны і значны элемент мовы пісьменніка — з'яўляюцца адным з актыўных сродкаў рэалізацыі ідэйна-мастацкай задумы, выяўляюць істотныя бакі вобразна-асацыятыўнага мыслення аўтара: *Стары сядзіць, застыўшы перад апаратам, каб хаця ж не змаргнуць, а рукі яго, спрацаваныя, брудныя рукі,* ***як пранікі,*** *прастадушна ляжаць на каленях, уніз мазалямі* («Птушкі і гнёзды»); *Касцовы ж рукі пад вечар гулі,* ***як тэлеграфныя слупы,*** *спаць чалавек валіўся, як сноп, а пасля сну, абы зноў упрогся ў касу, гудзенне паўтаралася і набірала стомы больш ды больш — патрошку, спакваля, на загартоўку і ў запас* («Гуртавое»); *Абедзве яго жмені захадзілі,* ***як абцугі,*** *абапал худых, няголеных шчок* («Птушкі і гнёзды).

Складаную мастацка-эстэтычную функцыю выконваюць у творах Брыля метафары. У цесным узаемадзеянні з іншымі вобразнымі сродкамі яны адыгрываюць значную ролю ў раскрыцці асноўнай ідэі твора. Аўтарскія метафары звычайна абумоўлены кантэкстам. Нярэдка пісьменнік ідзе да метафары праз параўнанне, якое падрыхтоўвае чытача да яе ўспрымання. У рамане «Птушкі і гнёзды» чытаем: *Ты ж, праўда, не быў ужо, калі да нас югаславаў прыгналі. Шынялі сівыя —* ***як жураўлі.*** *Загналі ў асобны закутак, дзе была раней штрафкампанія, стаяць* ***жураўлі*** *за дратамі.* Прыгаданыя вобразныя сродкі абумоўлены метафарычнай назвай рамана, яго асноўнай ідэяй, з якой звязаны сімвалічныя вобразы птушак, гнёздаў і выраю, што праходзяць праз увесь твор (успомнім: ногі Алеся *дрыжаць,* ***як у малога, неабвучанага бусліка, якога гоняць з гнязда ў першы палёт;*** хлопчык Іван *цёплы* ***з гнязда,*** *худзенькі,* ***як драч;*** на пастушку кашулька ***вераб'інага*** *колеру*; гутаркі палонных пра ўцёкі ***загняздзіліся*** *ў паасобных сяброўскіх групках*; Змітрук Саладуха, якога аўтар параўноўвае з жаўранкам-смецюхом, ***птушкай ляцеў бы*** *з палону дахаты* і інш.). Праз адносіны да вобразаў-сімвалаў чалавек сцвярджае сябе як грамадзянін і патрыёт.

Брыль творча выкарыстоўвае народную фразеалогію. Для індывідуалізацыі персанажаў, паказу пэўных жыццёвых сітуацый пісьменнік абнаўляе фразеалагізмы, пашырае межы іх спалучальнасці. Замест агульнавядомых фразеалагізмаў *паставіць на ногі, з птушынага палёту, (зрабіць) на скорую руку, з высокай трыбуны, на ўвесь рот* у яго творах ужываюцца *паставіць на рэйкі, з анёльскага палёту, (сказаць) на скорую руку, з высокай купіны, ва ўсе вусікі*. У некаторых

фразеалагізмы аўтар уключае дадатковыя кампаненты: *мецъ* ***сваю пашахонскую*** *рацыю, збіты з* ***апошняга*** *глузду,* ***адчайны*** *ход дачкою, з* ***горкай*** *працы рук, паспытаць* ***мінёрскага*** *хлеба, на ўвесь* ***наш*** *свет* і інш. Замяняючы кампаненты фразеалагізмаў або ўзмацняючы іх дадатковымі азначэннямі, пісьменнік не мае на мэце стварыць незвычайны стылістычны эфект. Асноўны яго клопат — узмацніць або ўдакладніць выказванне, абудзіць думку чытача, выклікаць патрэбныя асацыяцыі.

Увагу чытача прыцягвае Брылёва перыфраза. Ён узбагаціў беларускую літаратурную мову такімі вобразнымі апісальнымі назвамі, як *беларускі гімн чыстаму каханню* (верш М. Багдановіча «Зорка Венера»), *белы сцяг вясны, надубны гаспадар* (бусел), *аматары ціхага і цярплівага хвалявання* (рыбакі), *чалавечы досвітак, далёкі пачатак жыцця* (маленства), *чалавечае мора, чалавечы мурашнік* (вялікі натоўп людзей), *капронавая смерць* (рыбацкія сеці), *барозны гора* (зморшчыны), *вязніца мастацтва* (касцёл), *звярыны канцлагер* (звярынец) і інш.

Прыкметная асаблівасць сінтаксісу мастака — парцэляцыя, выдзяленне слова ці словазлучэння ў асобную сінтаксічную адзінку. Такі стылістычны прыём дазваляе аўтару вылучыць у сказе тое галоўнае, на што трэба звярнуць увагу чытача, выказаць свае адносіны да паказанага. Асабліва выразна парцэляцыя выяўляецца ў малых творах — лірычных мініяцюрах, дзённікавых запісах, а таксама ў тых творах, дзе пераважае суб'ектыўны лірычны пачатак: *А ён нядаўна зноў надрукаваў артыкул.* ***Добры*** («Пошукі слова»); *Старшыня расказваў нам у дарозе, што сюды, да дзеда, ён пасылае дзяўчат пасля пчалярскай школы.* ***Падвучыцца. Мудрай народнай цярплівасці. Любві да справы*** («Дажджлівы, сонечны жнівень»); *Маладзенькая сціплая мама.* ***Красуня*** («Нібыта рознае»); *А людзі гэтыя спяваюць.* ***Так шчыра, хораша. На два галасы*** («Ніжнія Байдуны»). З мэтай падкрэсліць найбольш істотнае могуць парцэлявацца даданыя сказы, вылучаныя ў асобныя абзацы:

*Ды дзяцел вырваўся і паляцеў.*

*Каб зноў ніколі не верашчаць, не клікаць нас, людзей, на дапамогу.*

*Каб толькі як быццам гулліва, але ж дзеля хлеба, упарта і майстравіта, абстукваць ствалы і галіны.*

*Нібы прасіцца гэтым сяброўскім, сваяцкім пастукваннем у дзверы нашай лясной або дарожнай адзіноты* («Тройчы пра адзіноту»).

У творах Янкі Брыля — шматлікія выказванні пра мову, пра слова. Пісьменніку дорага «разумнае, смачнае слова», ён чуе «музыку слова»,

**Аўтограф Янкі Брыля (эсэ «Думы ў дарозе»).**

адчувае «здзіўленне перад красой і сілай слова», яму вядомы «пакуты слова», ён перакананы, што «слова тоіць вялікую сілу». Брыль заклікае: «Узбагачайма яе, нашу літаратурную мову, голлем, лісцем, кветкамі, пладамі, насеннем мясцовых гаворак, але ж памятайма, дбайма і пра ствол, і пра карэнне вялікага дрэва нашай роднай літаратурнай мовы» (Брыль Я. Сёння і памяць. Мн., 1985. С. 291), дзеліцца роздумам: «Днямі зноў думалася пра крыніцу — родную мову, якой служу і буду служыць як першааснове выхаду ў агульналюдскае. І не таму, што без гэтага мяне не будзе, а таму, што толькі так, толькі кожны ад свайго, ад сыноўняй любасці, ад мудрай пашаны да свае крыніцы, да свайго карэння па-сапраўднаму выходзяць да ўсіх людзей» (тамсама. С. 295).

За чысціню, за культуру роднай мовы Янка Брыль змагаецца сваімі мініяцюрамі:

*Самазадаволены маэстра піша пабеларуску «шляпа», «укусна», «бракну», «кузнец»... У адказ на крытыку крычыць:*

*— Трэба смялей набліжаць нашы братнія мовы!*

*На невуцтве — «вялікая палітыка»* («Служэнне»);

*Наша любімае ў* ***цэлым.*** *Можна і так: у цэлым накрыўся дзіравым плашчом* («Абы на здароўе»).

Брыль, пісьменнік яркай творчай індывідуальнасці, узбагаціў мову афарыстычнымі выслоўямі: *карміць макухай красамоўства; Радзівонаўну слухай, але сам будзь Радзівонавіч; зусім не хістаюцца слупы, асабліва — глыбока ўкапаныя; сябры нашых сяброў — нашы сябры. А ворагі? У кожным выпадку — не сябры; баяцца за другіх — не баязлівасць; хваліць можна тонам любым; новы друг — знаходка рэдкая, а стары — каштоўнасць; інтэлігенцыя не ўся і не заўсёды бывае інтэлігентнаю; калі я чытаю добрую кнігу, не папракайце мяне ў гультайстве. Не хочаце прызнаць, што я працую, дык думайце, што малюся — Слову; вышэй за ўсё і перш за ўсё — чалавечнасць; зусім розныя рэчы — салдату хацець стаць маршалам, а яфрэйтару лічыць, што ён ужо генерал; праўда заўсёды была і будзе меркай сучаснасці.*

Янка Брыль — пісьменнік нацыянальны і разам з тым, «як ніхто, ён ставіць Беларусь, беларускае слова ў шырокі кантэкст чалавецтва» (Адамовіч А. Прадмова // Брыль Я. Зб. тв. Мн., 1979. Т. 1. С. 8).

*Літ.*: Трыпуціна Т. Аналіз слова- і фразеаўжывання ў мастацкім тэксце: (З нарыса пра мову Янкі Брыля). Мн., 1984; Яе ж. Пошукі слова — дзеля кантэксту, яго ўдасканаленне // Слова і фразеалагізм у кантэксце. Мн., 1983; Яе ж. Пра слова народнага пісьменніка Янкі Брыля // Моўныя адзінкі ў кантэксце. Мн., 1987; Рачэўскі Ст. Пра мову народнага пісьменніка Янкі Брыля // Слова і фразеалагізм у кантэксце. Мн., 1983; Янкоўскі Ф. М. Ідзе хо-

раша, сумленна, смела // Янкоўскі Ф. М. З нялёгкіх дарог. Мн., 1988; Кавалёва Н. Таямніцы роднага слова // Полымя. 1981. № 1; Лінгвістычны аналіз тэксту: Матэрыялы семінара. Мн., 1975.

*Т. М. Трыпуціна.*

## БУЗУК ПЁТР АПАНАСАВІЧ



Беларускі мовазнавец-славіст, педагог П. А. Бузук нарадзіўся 14 ліпеня 1891 г. ў в. Цярноўка ў Малдавіі. У 1916 годзе скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Адэскага універсітэта, з 1920 года дацэнт гэтага факультэта. Доктар філалагічных навук (1924), прафесар (1925). Восенню 1925 года па запрашэнні рэктара БДУ У. І. Пічэты пераехаў у Мінск, чытаў лекцыі ва універсітэце, адначасова кіраваў групай аспірантаў слоўнікаў фізічнай, ветэрынарнай, ры. У 1926—30 гг. загадчык дыялекталагічнай камісіі Інбелкульта, у 1927—28 гг.— член камісіі жывой беларускай мовы па распрацоўцы праекта правапісу беларускай мовы, графікі; камісіі па складанні слоўніка жывой беларускай мовы; тэрміналагічнай камісіі па падрыхтоўцы праектаў слоўнікаў фізічнай, ветэрынарнай, хімічнай, механічнай, тэатральнай тэрміналогіі. З 1931 г.— дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР, адначасова загадчык кафедры мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага вышэйшага педагагічнага інстытута. У пачатку 1934 г. П. А. Бузук быў беспадстаўна арыштаваны і сасланы на 3 гады ў Волагду, дзе працаваў у педагагічным інстытуце. Пасля заканчэння ссылкі ў 1937 г. зноў арыштаваны і ў гэтым жа годзе расстраляны. Па пратэсце пракурора БССР пастановай Пленума Вярхоўнага суда БССР у 1988 г. справа ў адносінах да П. А. Бузука спынена з-за адсутнасці складу злачынства, вучоны быў рэабілітаваны.

П. А. Бузук быў выдатным мовазнаўцам-паліглотам, валодаў усімі славянскімі мовамі, малдаўскай, румынскай, італьянскай, нямецкай, англійскай, французскай, літоўскай, татарскай, яўрэйскай, грэчаскай, лацінскай, грузінскай. Веданне рознасістэмных моў дазволіла стварыць шэраг прац, прысвечаных пытанням агульнага мовазнаўства, узаемадзеяння славянскіх моў, славянскіх і неславянскіх моў, праславянскай мовы, першапачатковага рассялення славян, дыялектнага драбнення мовы славян дапісьмовай эпохі, мовы старажытных славянскіх помнікаў, помнікаў Старажытнай Русі і інш. Галоўны кірунак навуковай дзейнасці П. А. Бузука — даследаванне беларускіх дыялектаў і распрацоўка пытанняў лінгвістычнай геаграфіі. Разам з С. Некрашэвічам склаў «Праграму для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак і гаворак, пераходных да суседніх моў» (1927); да збору гаворак былі шырока прыцягнуты студэнты і грамадскасць. Каб атрымаць больш поўнае ўяўленне пра моўныя асаблівасці беларускіх гаворак, П. А. Бузук у 1926 і 1927 гг. пабываў у Мінскім, Віцебскім, Бабруйскім, Асіповіцкім, Мазырскім раёнах, на Пскоўшчыне, Смаленшчыне, Чарнігаўшчыне. На аснове сабранага матэрыялу былі напісаны многія артыкулы і манаграфія «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі. Ч. 1. Фанетыка і марфалогія. Вып. 1. Гаворкі цэнтральнай і ўсходняй Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Вялікарасіі ў першай чвэрці XX в.» (1928). Гэта першы дыялекталагічны атлас беларускай мовы, які складаецца з 20 лінгвістычных карт і 111 старонак каментарыяў да іх. Даследчык сканцэнтраваў увагу на разглядзе асобных фанетычных і марфалагічных з'яў беларускай мовы. На картах паказаны тэрыторыя распаўсюджання акання розных тыпаў, змены *а* на *о* перад *ў*, захавання *ы* перад ётавымі галоснымі ў дзеясловах тыпу *мыю, крыю*, мяккага *р*, мяккага вымаўлення зубных зычных перад *е*, *і*, пераходу *л* у *ў* і інш.

У падрабязным фанетыка-марфалагічным нарысе-каментарыі аналізуюцца асаблівасці беларускіх гаворак, высвятляецца іх месца ў моўнай сістэме, удакладняюцца межы іх пашырэння. У гэтых адносінах цікавай з'яўляецца карта, прысвечаная дысімілятыўнаму аканню, якое пашырана на паўночным усходзе Беларусі. Бузук істотна ўдакладніў мяжу, якая раней была вызначана І. Г. Галанавым. Ён дэталізаваў і абгрунтаваў пытанне пераходных сярэднебеларускіх гаворак. Акрэсленыя на картах «Спробы...» межы моўных з'яў і ізаглосы «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963) амаль поўнасцю супадаюць. Гэта — пацвярджэнне дакладнасці, якаснасці фактычнага матэрыялу, уведзенага ў навуковы зварот.

П. А. Бузук — першы беларускі мовазнавец, для якога тэарэтычнае абгрунтаванне лінгвістычнай геаграфіі было справай усёй яго навуковай дзейнасці. Ён акрэсліў асноўныя праблемы лінгвагеаграфіі, якія і сёння застаюцца актуальнымі. Вучоны лічыў, што звесткі пра пашырэнне славянскіх моў і іх дыялектаў, пра іх узаемаадносіны з'яўляюцца неабходнай крыніцай вывучэння гісторыі і этнаграфіі славянскіх народаў, высвятлення іх паходжання. Асабліва шмат фактаў можа даць лінгвагеаграфія для гісторыі мовы. Пра гэта ён гаварыў у дакладзе «Лінгвістычная геаграфія як дапаможны метад пры вывучэнні гісторыі мовы» і на з'ездзе славістаў у Празе ў 1929 годзе. На яго думку, лінгвагеаграфія дае матэрыял для вывадаў адносна так званай знешняй гісторыі мовы, звязанай з гісторыяй народаў, шляхоў іх рассялення. Гістарычнае вывучэнне мовы павінна ісці поруч з геаграфічным даследаваннем.

Карпатлівае даследаванне гісторыі беларускай мовы ў яе сувязі з іншымі славянскімі мовамі П. А. Бузук спалучаў з інтэнсіўнай распрацоўкай актуальных праблем сучаснай беларускай літаратурнай мовы. На акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (12—21 лістапада 1926 г.) П. А. Бузук прачытаў даклад «Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў». Шэраг артыкулаў прысвяціў пытанням культуры беларускай літаратурнай мовы, праблеме ўзаемаадносін беларускай літаратурнай мовы і народных дыя-



Проф. П. БУЗУК

СПРОБА
ЛІНГВІСТЫЧНАЕ ГЕОГРАФІІ
БЕЛАРУСІ

Prof. P. BUZUK

VERSUCH EINER LINGUISTISCHEN
GEOGRAPHIE VON WEISSRUTHENIEN

**П. Бузук. «Спроба лінгвістычнае геаграфіі Беларусі». 1928.**

лектаў. У працах, прысвечаных даследаванню мовы Ц. Гартнага, раскрыў сутнасць паняццяў «мова народа», «літаратурная мова», «народная гаворка», паказаў, у якіх узаемаадносінах яны знаходзяцца. Пры аналізе моўных сродкаў у творах М. Чарота, Я. Коласа, Ц. Гартнага, М. Зарэцкага, А. Дудара паказаў ролю і значэнне дыялектных слоў і форм, якія ўзбагачаюць літаратурную мову. Напісаў некалькі літаратуразнаўчых прац, прысвечаных аналізу творчасці беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў, пісьменнікаў братніх славянскіх народаў. Пад псеўданімам П. Росіч друкаваў вершы, апавяданні, пераклады ў «Маладняку», «Полымі», рэспубліканскіх газетах.

*Тв.*: Взгляды акад. Шахматова на доисторические судьбы славянства // Изв. ОРЯС. 1921. Т. 23, кн. 2(1918); Асноўныя пытанні мовазнаўства: Падручная кніга для настаўнікаў бел. мовы і студэнтаў-лінгвістаў. Мн., 1926; Да характарыстыкі паўночнабеларускіх дыялектаў: Гутаркі Невельскага і Вялікага паветаў. Мн., 1926; Взаємовідносини між українською та білоруською мовами // Зап. іст.-філол. відділу Всеукраїнської АН. 1926. Кн. 7—8; Мова і правапіс твораў Якуба Коласа // Якуб Колас у літаратурнай крытыцы: Да 20-гадовага юбілею яго літ. дзейнасці. Мн., 1926; Нарис історії української мови: Вступ, фонетика і морфологія. З додатком історичної хрестоматії. Київ, 1927; Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў // Працы Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. (14—21 ліст. 1926 г.). Мн., 1927; Увагі аб мове і стылі маладнякоўцаў // Маладняк. 1927. № 5; К вопросу о составлении диалектологической карты белорусского языка // Сб. ОРЯС. 1928. Т. 101, № 3; Мова і правапіс Ц. Гартнага // Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы: Да дваццаціголдзя яго літ. дзейнасці, 1908—28. Мн., 1928; Лінгвістычная геаграфія як дапаможны метад пры вывучэнні гісторыі мовы // Sbornik prací I sjezdu slovan. filol. v Praze. 1929, sv. 2. Praha, 1932; Да характарыстыкі цэнтральнабеларускіх дыялектаў: Гутаркі Асіповіцкага раёна // Зап. аддз. гуманіт. навук. Мн., 1929. Кн. 9. Працы класа філалогіі. Т. 2; Да пытання аб лёсе прадгістарычнага (праславянскага) // Тамсама; Діалектологічний нарис Полтавщини // Укр. діалектологічний зб. Київ, 1929. Кн. 2; «Культура мовы» ў «Узвышшы» // Маладняк. 1929. № 5—6; Да характарыстыкі дыялектаў паўднёва-беларускіх і пераходных да ўкраінскіх // Sveslovenski zbornik. Spomenica o tisućgodišnjici Hrvatskogo kraljevstva. Zagreb, 1930; Результаты диалектологического изучения Белоруссии в 1926—1928 гг. // Slavia (Praha). 1930. R. 9, seš. 2.

*Літ.*: Рамановіч Я. і Юрэвіч А. П. А. Бузук. Мн., 1969; Зленко Г. Страницы биографии П. А. Бузука: (Несколько существенных уточнений) // Кодры (Кишинёв). 1973. № 2; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды. Т. 2. Мн., 1977.

*Я. М. Рамановіч, А. К. Юрэвіч.*

**Буквар** — кніга для першапачатковага навучання грамаце (чытанню, пісьму) і развіцця мовы. Мяркуюць, што слова *буквар* утварылася ад літар старaславянскага алфавіта «букі», «веди» і з'явілася працягам першапачатковай назвы *азбука*, што ў сваю чаргу паходзіць ад першых дзвюх літар алфавіта «аз», «букі».

Да паяўлення першых буквароў для навучання грамаце выкарыстоўваліся спецыяльныя дошчачкі, берасцяныя сшыткі з алфавітам. У Брэсце знойдзена своеасаблівае сведчанне нашых самых першых буквароў — самшытавы грэбень 12—13 ст. з алфавітам.

Пазней авалоданню граматай садзейнічалі кнігі рэлігійнага характару. Так, «Біблія» Ф. Скарыны мела не толькі духоўнае, але і вялікае асветніцкае значэнне. У прадмове да яе славуты першадрукар пісаў: «Хочешь ли уметь грамматику или, порусски говоря, грамоту, которая хорошо читать и говорить учит, найдешь в полной Библии Псалтырь, читай ее». У сярэднявеччы Псалтыр быў асноўнай кнігай, па якой вучыліся грамаце. Ф. Скарына высока цаніў Псалтыр як крыніцу ведаў, добрых нораваў, эстэтычнага задавальнення. Ён першы паспрабаваў наблізіць тэкст Псалтыра да народнай мовы: выдаў яго на царкоўна-славянскай мове з тлумачэннямі незразумелых слоў на палях (Прага, 1517).

Ф. Скарына для хутчэйшага і лепшага запамінання ілюстраваў загалоўныя літары тэкстаў малюнкамі жывёл, раслін: побач з літарай *л* даваўся малюнак лёну, да *з* прапаноўваўся малюнак звера і г. д. З тых далёкіх часоў гэта асаблівасць Скарынавых кніг выкарыстоўваецца і зараз у сучасных букварах.

Першую «Азбуку» выпусціў у Львове І. Фёдараў у 1574 г. (каля 1580 г. перавыдадзена ў Астрогу). Затым у Вільні ў друкарні братоў Л. і К. Мамонічаў выйшлі буквар «Начало учениа детем» (1593) і азбука Л. і С. Зізаніяў «Наука ку читаню и розуменю писма словенского» (Брацкая друкарня, 1596). У 1618 г. ў друкарні Святадухаўскага віленскага брацтва надрукаваны еўеўскі «Буквар». У 1631 г. ў Куцеінскай друкарні, што размяшчалася ў Аршанскім Куцеінскім Богаяўленскім манастыры, С. Собалем выдадзены «Буквар», у 1636 г. ў Магілёўскай брацкай друкарні ў Буйнічах ім жа выдадзены «Буквар» («Буквар языка славенска»). Пазней паявіўся «Буквар» Сімяона Полацкага (Масква, 1679), па якім, дарэчы, вучыліся дзеці царскай сям'і. Мяркуюць, што Сімяонам Полацкім быў складзены буквар для малалетняга Пятра I.

Першыя буквары адыгралі вялікую ролю ў распаўсюджанні асветы ў Расіі, на Украіне, Беларусі і ў Літве.

**Граматыка славянскай мовы (буквар). Тытульны ліст. 1618.**

**«Буквар» (тытульны ліст). 1636.**

У названых букварах змяшчаліся тэксты свецкага і рэлігійнага характару. Навучанне чытанню грунтавалася на літаразлучальным метадзе. Спачатку дзеці знаёміліся з абрысамі літар, механічна завучвалі іх назвы *(аз, буки, веди, глаголь)*, а затым утваралі склады прыкладна так: *буки* + *аз* = *ба*, *веди* + *аз* = *ва* і г. д.

Чыталі словы, папярэдне называючы кожную літару, кожны склад, і нарэшце — словы і фразы без папярэдняй назвы літар. Навучанне літаразлучальным метадам мела дагматычны характар, трымалася на механічным запамінанні матэрыялу. У тыповую структуру буквара ўваходзілі: алфавітныя рады (у прамым і адваротным парадку), склады (пачынаючы з 2-літарных да «девятериц»), тлумачальныя азбукі (першыя звязныя тэксты для чытання), элементы граматыкі, дыдактычны матэрыял (у канцы кнігі). Найбольш арыгінальная паводле структуры Азбука Зізаніяў, якая апрача ўласна буквара змяшчала вучэбны слоўнік з каментарыямі — «Лексисъ» і катэхізіс антыкаталіцкай скіраванасці.

Вучоныя сцвярджаюць, што з канца 16 да сярэдзіны 17 ст. на Беларусі выйшла 16 буквароў — больш як палавіна падобных выданняў на ўсходнеславянскіх землях.

У 1835 г. ў Вільні была надрукавана па-беларуску (загаловак на польскай мове) чытанка: «Krótkie zebranie nauki Chrześciańskiej. Dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania Rzymsko-katolickiego» («Кароткі збор хрысціянскай навукі для сялян рымска-каталіцкага веравызнання, якія гавораць на польска-рускай мове»), а ў 1862 г. ў сувязі з уздымам нацыянальна-вызваленчага руху выйшаў у Варшаве «Лемантар для добрых дзетак каталікаў» (лемантар — значыць элементарны). К. Каліноўскі і іншыя кіраўнікі паўстання 1863—64 гг. былі акрылены ідэяй навучыць пачатковай грамаце шырокія масы беларускага народа. Есць меркаванне, што да выдання гэтага буквара меў дачыненне вядомы ўдзельнік паўстання на Беларусі і ў Літве А. Аскерка. На першых старонках буквара спачатку змяшчаліся вялікія і малыя літары, знакі прыпынку, лічбы. Затым прапаноўваліся асобныя склады, пасля — словы, падзеленыя на склады, і сказы.

У 1906 г. ў Пецярбургу выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца» быў ананімна надрукаваны «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання». Мяркуюць, што непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы буквара прымаў К. Каганец. Есць звесткі, што К. Каганцу памагаў В. Іваноўскі. Метадычна гэты «Лемантар» грунтаваўся на «Promyku» («Праменьчыку») — славутым польскім буквары К. Прушынскага. Складальнікі выпрацавалі уніфікаваныя правілы беларускай арфаграфіі як грамадзянкаю, так і лацінкаю, увёўшы для лацінкі новую графічную сістэму, якая апіралася на чэшскі алфавіт. Якуб Колас і П. Мядзёлка лічылі, што аўтарам «Беларускага лемантара» была Цётка (Э. Пашкевіч).

У «Лемантары» пасля знаёмства з пэўным гукам прапаноўваліся для чытання спачатку адкрытыя склады, аднаскладовыя і двухскладовыя словы, падзеленыя на склады, потым сказы і невялікія тэксты. Знаёмства з друкаванай (розных шрыфтоў) і рукапіснай (малой і вялікай) літарамі праводзілася паралельна з выдзяленнем гука. З дыдактычнай мэтай выкарыстоўваліся прадметныя малюнкі. Парадак вывучэння гукаў і літар быў такі: *а, э, и, о, у, ы, м, б, т, я, е, ю, йо, ц, н, л, в, к, п, з, д, с, г, х, ж, дз, дж, р, ш, ч, ў, ь*. Па сваёй лексіцы буквар быў блізкі да жывой народнай мовы — цэнтральных гаворак. У ім у якасці вучэбнага матэрыялу выкарыстоўвалася шмат прыказак, дасціпных народных выслоўяў, параўнанняў. Змест тэкстаў быў звязаны з жыццёвым вопытам дзяцей (пераважна з роднай прыродай). У канцы кнігі даваліся элементарныя звесткі з розных галін мовы: з фанетыкі — слова, склад, гук («зык»), галосныя («самагалосныя»), зычныя («сагалосныя») гукі; з графікі — літара, знак кароткасці ў літарах *й, ў*, знак націску, літары *ь, ъ*; з пунктуацыі — называліся «застановачныя» знакі і даваліся ўзоры іх графічнага абазначэння: кропка, двукроп'е, «закавыка» (коска), «кропка з закавыкай», клічнік, «пытаннік», «злуч», «працяжка», «чужаслоў», «недасказ»; з арфаграфіі — напісанне вялікай літары ў пачатку сказа, пасля кропкі, у імёнах і прозвішчах людзей, назвах гарадоў, мястэчак, вёсак, рэк, азёр. Прыводзіліся таксама лічбы ад 1 да 10. У канцы даваўся алфавіт, друкаваны лацінкай і кірыліцай.




**С. Некрашэвіч. «Лемантар» (вокладка). 1925.**

Буквар меў прадмову з парадамі, як лепш навучыць чытаць (паказвай «знак за знакам і адразу вучы чытаць цэлы склад і слова, склад за складам»), тлумачылася таксама вымаўленне асобных гукаў *(у, г, дз, дж)*. Некаторыя парады былі і на паасобных старонках.

У 1906 г. ў Пецярбургу выйшла «Першае чытанне для дзетак-беларусаў» Цёткі (лацінкай і кірыліцай). У пачатку кнігі для тых, хто не вучыўся чытаць па лемантары, коратка паведамлялася пра асобныя гукі, прыводзілася іх літарнае абазначэнне. Далей прапаноўваліся невялікія звязныя тэксты для чытання (казкі, апавяданні, вершы, прыпеўкі, прыказкі, прымаўкі, загадкі). У кнізе адсутнічалі далітарны і букварны этапы навучання грамаце. У 1907 г. быў надрукаваны лацінкай і кірыліцай «Rusinsky łementar. Русінскі лемантар. Napisau Staryj Hospodar». Аўтар яго — невядомы выхадзец з беларускага Палесся, паколькі ён адрасаваў буквар сваім землякам: па тым «лемантарі повинни учитися читати всі Полешуки».

Есць сведчанні, што прыкладна ў 1911 г. над беларускім букваром шмат працаваў М. Багдановіч. Рукапіс з каляровымі малюнкамі быў падрыхтаваны, аднак пра яго далейшы лёс нічога невядома.

У паслярэвалюцыйны час існавала мноства беларускіх буквароў для дзяцей і дарослых, паколькі ў рэспубліцы поўным ходам ішла ліквідацыя непісьменнасці (Смоліч А. «Зорка: Беларуская граматыка», 1919; Байкоў М., Некрашэвіч С. «Наша сіла — ніва ды машына: Лемантар для дарослых», 1925; «Наша сіла — Саюз: Лемантар для сельскагаспадарчых і лясных рабочых», 1926; Пушкевіч Ю. «Лемантар для дарослых», 1926; Кісель П. «Чырвоны баец: Кніжка па грамаце для чырвонаармейцаў і дапрызыўнікаў», 1931, і інш.). У 1920-я гады дапускалася існаванне буквароў, складзеных на альтэрнатыўнай метадычнай аснове, такіх, як «Беларускі лемантар» С. Некрашэвіча (1922) і «Чырвоная змена: Лемантар» А. Федасенкі (1925). Настаўнік меў права выбару буквароў у залежнасці ад таго, якой методыкай ён лепш валодаў.

«Беларускі лемантар» С. Некрашэвіча грунтаваўся на гукавым метадзе навучання. У яго пачатку (далітарны перыяд) прапаноўваліся сюжэтныя малюнкі па развіцці мовы, а таксама графічныя заданні, узоры вырабаў з гліны; малюнкі — спецыяльныя падрыхтоўчыя практыкаванні да пісьма. На другім этапе арганізоўвалася знаёмства з гукамі і літарамі на аснове адна- і двухскладовых слоў. Затым паступова падключаліся і трохскладовыя словы. Лексічны матэрыял для чытання быў падзелены на склады і суправаджаўся прадметнымі малюнкамі. Пры знаёмстве з гукам адначасова прапаноўваліся ўзоры друкаваных і рукапісных літар, даваліся

прописы слоў і сказаў. Парадак знаёмства з гукамі і літарамі абумоўліваўся паступовым нарастаннем цяжкасцей для дзяцей у чытанні і пісьме: *а, у, м, р, ы, к, ш, с, о, л, і, н, т, в, п, е, ж, з, д, б, г, ь, х, я, ц, ў, й, э, ч, ё, ф, ю, дз, дж*. У вучэбным матэрыяле выкарыстоўваліся разнастайныя граматычныя формы назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў. Лексіка лемантара даступная для дзяцей гэтага ўзросту і блізкая да жывой народнай мовы. Сінтаксічныя канструкцыі сказаў простыя. Другая частка лемантара «Сярод дзетак і жывёлін» прызначалася для далейшага ўдасканалення навыкаў чытання. Тут прапаноўваліся таксама і спецыяльныя практыкаванні для выпрацоўкі навыкаў пісьма. У канцы даваўся ўзор усіх малых і вялікіх рукапісных літар, лічбаў, «Беларускі альфабэт», разразная азбука.

Буквар А. Федасенкі «Чырвоная змена» будаваўся ў адпаведнасці з метадам «цэлых слоў». Як і ў папярэднім буквары, спачатку прапаноўваліся малюнкі для развіцця вуснай мовы, графічныя практыкаванні падрыхтоўчага характару, узоры аплікацый, арнаментаў, малюнкі прадметаў для лепкі. Навучанне грамаце грунтавалася на запамінанні вучнямі адразу цэлых слоў у рукапісным і друкаваным варыянтах без іх складовага і гука-літарнага аналізу. Дзеці спачатку чыталі словы, угадваючы іх па адпаведных малюнках і абрысах літар. Затым са слоў выдзялялі гукі і літары. Паступова матэрыял ускладняўся: прапаноўваліся не толькі асобныя словы, але і сказы (рукапісны і друкаваны варыянты), невялікія тэксты, якія мелі выразную сацыяльна-палітычную накіраванасць, характэрную для таго часу. Многія з іх суправаджаліся дадатковымі заданнямі на развіццё творчых здольнасцей дзяцей (прапаноўваліся ўзоры дзіцячай творчасці), назіральнасці і дапытлівасці (вучням раілася правесці нескладаныя доследы, назіранні за жывой прыродай). Буквар меў характар інтэграванага курса: дзеці не толькі вучыліся чытаць і пісаць, але і атрымлівалі элементарныя прыродазнаўчыя ўяўленні, знаёміліся з сацыяльна-палітычным жыццём, гісторыяй, геаграфіяй. Шмат увагі аддавалася і маляванню. Змяшчаліся ў буквары і метадычныя парады для настаўніка.

Заслугоўвае ўвагі славуты заходнебеларускі буквар С. Паўловіча «Першыя зярняткі» (1936) — гераічная старонка змагання працоўных мас за родную мову. Гэты буквар прызначаўся для хатняга навучання беларускай мове, друкаваўся лацінкай і кірыліцай. Грунтаваўся на метадзе цэлых слоў. У ім (паслябукварны перыяд) прапаноўваліся практыкаванні для пісьма, тэксты для чытання. Буквар быў добра ілюстраваны малюнкамі і фотаздымкамі. У яго мастацкім афармленні прымаў удзел Я. Драздовіч. Чытанка таго ж аўтара «Засеўкі» (1937, лацінкай) мела некалькі раздзелаў: «Беларусь і беларусы», «Беларуская прырода і праца», «Культура і поступ». Па вершах Янкі Купалы, Якуба Коласа, А. Гаруна, Цёткі, Я. Журбы, М. Машары, Ц. Гартнага, Максіма Танка дзеці знаёміліся з мінулым і тагачасным жыццём працоўных Беларусі. У канцы кнігі прыводзяцца словы Ф. Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!». С. К. Паўловіч выступаў таксама супраць паланізацыі беларускіх школ (яго брашура «Некалькі ўваг аб «беларускім» «Лемантары» Ст. Любіч-Маеўскага, 1929, пад псеўданімам Паляшук).

З 1929 г. навучанне грамаце ажыццяўлялася толькі на аснове гукавога аналітыка-сінтэтычнага метаду. У гэты час і да 1969 г. ў школах выкарыстоўваўся буквар Н. Сіўко (1929—32 з Л. Лукіной, 1937 з З. Ліхачовай). На першых яго старонках прапаноўваўся традыцыйны дыдактычны матэрыял, неабходны ў далітарны перыяд навучання грамаце для развіцця вуснай мовы вучняў і падрыхтоўкі да пісьма. Затым вучні знаёміліся з гукамі і літарамі. Для гэтага прапаноўваліся сюжэтныя і прадметныя малюнкі. Са слоў, што абазначалі прадметы, паказаныя на малюнках, выдзяляўся пэўны гук. Давалася яго літарнае абазначэнне. Затым для







Сучасныя буквары.

чытання прапаноўваліся асобныя склады з гэтым гукам, пасля — адна- і двухскладовыя словы, падзеленыя на склады. Пазней — сказы і невялікія тэксты. На першым этапе ўводзіліся толькі спалучэнні галосных з цвёрдымі зычнымі, затым — з мяккімі. Новы гук падаваўся ў розных фанетычных пазіцыях: у пачатку, сярэдзіне, канцы слова. Аўтар прытрымліваўся наступнага парадку ўвядзення гукаў і літар: *а, у, м, ш, н, с, р, ы, л, о, х, в, к, ж, т, ь, п, і, з, ч, й, э, е, б, г, д, ў, я, ц, дз, ё, ф, ю, ь* (раздзяляльны), апостраф, *дж*. Па меры выпрацоўкі навыкаў чытання ўскладнялася структура асобных слоў, сказаў, больш разнастайным станавіўся моўны матэрыял у граматычных адносінах (акрамя назоўніка, прыметніка і дзеяслова, уводзіліся іншыя часціны мовы). Разам з тым буквар вызначаўся небагатай лексікай, наяўнасцю русізмаў, вузка дыдактычным характарам тэкстаў.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ў партызанскіх «зялёных школах» дзяцей вучылі па самаробных букварах (вядомы буквар А. Ліпскай).

«Буквар» А. Клышкі (1969) быў створаны з улікам апошніх дасягненняў псіхолага-педагагічнай навукі. У ім практычна рэалізоўваліся прынцыпы навучання чытанню і пісьму, якія вынікалі з заканамернасці засваення граматы з улікам гукавога аналітыка-сінтэтычнага метаду. Маючы на ўвазе, што вучыць грамаце неабходна перш за ўсё на аснове вуснай мовы, блізкай дзецям па лексіцы, граматыцы, тэматыцы, у буквары для гэтага прапаноўваўся разнастайны матэрыял. Вучні паступова падводзіліся да ўсведамлення сказа і слова: сюжэтныя малюнкі суправаджаліся адпаведнымі графічнымі абазначэннямі. Пасля аналітычнага выдзялення ў слове пэўнага гука і знаёмства з яго літарным абазначэннем пачынаўся сінтэз: аб'яднанне гукаў у склады, складоў — у словы, слоў — у сказы. Парадак знаёмства з гукамі і літарамі: *а, у, м, т, н, х, ш, р, ы, о, с, л, к, і, п, в, з, ж, э, й, ь, е, б, д, ч, г, я, ў, ц, дз, ё, ю, ф*, апостраф, *дж*. Тэкставы матэрыял буквара быў у асноўным аўтарскі, не адапціраваўся. Кніга вызначалася тонкім паэтычным адчуваннем жывой беларускай мовы з яе багатым лексіка-граматычным ладам, экспрэсіяй, разнастайнасцю гульнёвага моўнага матэрыялу (прыказкі, прымаўкі, загадкі, скорагаворкі, рэбусы). Для дзяцей ён стаў сапраўднай энцыклапедыяй прыроды і жыцця. Навык пісьма выпрацоўваўся паралельна з чытаннем. З гэтай мэтай у буквары прапаноўваліся прописы літар, слоў, сказаў (акрамя гэтага, у якасці дадатку да буквара выпускаліся спецыяльныя сшыткі з прописамі). З густам аформлены падручнік А. Клышкі атрымаў залаты медаль на Міжнароднай выстаўцы ў Лейпцыгу (1977).

Для падрыхтоўчых класаў у 1983 г. выйшаў эксперыментальны дапаможнік «АБВ» А. Шанько з традыцыйнымі прынцыпамі навучання чытанню. Разам з тым у «АБВ» уводзіліся графічныя мадэлі слоў, стужкі літар для паўтарэння і абагульнення вывучанага. Прапаноўвался таксама іншы парадак вывучэння гукаў і літар: *а, н, я, л, о, ё, ы, і, й, м, у, ю, ў, к, т, ц, с, р, в, п, э, е, ь, з, д, дз, г, б, х, ш, ч, ж, дж, ф*, апостраф, раздзяляльны *ь*.

Новы буквар А. Клышкі для шасцігодак (1986) змяніў парадак увядзення гукаў і літар з улікам узроставых асаблівасцей дзяцей, пачаўшы знаёмства з шасцю асноўнымі галоснымі гукамі: *а, у, о, і, ы, э, н, м, т, х, ш, с, л, р, к, п, в, з, ж, й, ь, е, б, д, г, я, ч, ў, ц, дз, ё, ю, ф, дж*, апостраф. У яго ўключаны новы дыдактычны матэрыял, унесены метадычныя змены прыватнага характару. Асноўным прынцыпам, паводле якога арганізуецца навучанне грамаце, застаўся ранейшы.

*Літ.*: Голенченко Г. Я. Источники по истории белорусской культуры: (Старопечатные учебные книги XVI — первой половины XVII вв.) // Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1979; Ботвинник М. Откуда есть пошёл букварь. Мн., 1983; Методыка выкладання беларускай мовы ў пачатковых класах / Пад рэд. А. П. Шанько. Мн., 1986; Крамко І. З гісторыі нашага буквара // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1988. № 3; Turonek J. Geneza i autorstwo pierwszego elementarza białoruskiego // Slavia orientalis. 1986. T. 35, № 3.

*М. Г. Яленскі.*

## БУЛАХАЎ МІХАІЛ ГАПЕЕВІЧ



Беларускі мовазнавец М. Г. Булахаў нарадзіўся 22 ліпеня 1919 г. ў в. Маслакі Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. Доктар філалагічных навук (1966), прафесар (1967). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1971). У 1940 г. скончыў Магілёўскі педінстытут. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, рускай і




**М. Г. Булахаў. «Прыметнік у беларускай мове». Т. 1 (вокладка). 1964.**

нямецкай моў (1939—40), асістэнтам і загадчыкам кафедры рускай мовы Мінскага педінстытута (1948—52), навуковым супрацоўнікам і загадчыкам сектара сучаснай беларускай мовы і культуры мовы Інстытута мовазнаўства АН Беларусі (1952—56), загадчыкам кафедры рускай мовы БДУ (1965—75), у 1975—90 гг.— кафедры агульнага і рускага мовазнаўства Мінскага педінстытута. Быў адказным рэдактарам часопіса «Веснік БДУ імя У. І. Леніна. Серыя 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія» (1969—75).

Асноўныя кірункі яго навуковай дзейнасці — беларускае, рускае і славянскае мовазнаўства, удасканаленне методыкі выкладання лінгвістычных дысцыплін у вышэйшых установах. Працы вучонага (каля 200) у галіне беларускага мовазнаўства ахопліваюць праблемы сучаснай мовы, гісторыі мовы і ўзаемадзеяння беларускай мовы з іншымі славянскімі мовамі на розных этапах іх развіцця. М. Г. Булахаў даследаваў мову старажытных беларускіх помнікаў дзелавога, публіцыстычнага і літаратурнага характару, твораў 17—20 ст., першадрукаў Ф. Скарыны («Аб словаўтварэнні скарынінскіх выданняў», 1968; «Аб задачах лінгвістычнага вывучэння кніжнай спадчыны Ф. Скарыны», 1967, і інш.), С. Буднага. Яго трохтомнае даследаванне «Прыметнік у беларускай мове» (1964), «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы XIV—XVII стагоддзяў. Ч. 2. Сінтаксічны нарыс» (1971), «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы. Ч. 3. Лексікалагічны нарыс» (1973) на матэрыяле

пісьмовых помнікаў 14—17 ст., фальклорных і дыялекталагічных помнікаў, сучаснай літаратурнай мовы ў гісторыка-этымалагічным плане прасочвае працэс складвання ў беларускай мове прыметніка як асобнага лексіка-граматычнага класа слоў, аналізуе развіццё яго семантыкі, граматычных форм і сінтаксічных функцый. Пры нарматыўнай класіфікацыі іх шырока прыменены статыстычныя метады.

М. Г. Булахаў стварыў першы ў айчынным мовазнаўстве трохтомны біябібліяграфічны слоўнік «Усходнеславянскія мовазнаўцы» (1976—78). У ім змешчаны нарысы пра 352 вучоных ад 16 ст. па 1970-я гады, з іх 26 — беларускія: І. І. Насовіч, Я. Ф. Карскі, Б. А. Тарашкевіч, С. М. Некрашэвіч, М. Я. Байкоў, І. В. Воўк-Левановіч, П. А. Бузук і інш. Аўтар выявіў шмат незаслужана забытых імён і фактаў, акрэсліў магістральныя лініі развіцця айчыннай лінгвістычнай думкі, абагульніў дасягненні розных лінгвістычных школ і кірункаў, вызначыў месца і ўклад кожнага вучонага ў гісторыю ўсходнеславянскага мовазнаўства. Тэматычна блізкія гэтаму слоўніку асобныя артыкулы і манаграфія М. Г. Булахава «Яўхім Фёдаравіч Карскі: Жыццё, навуковая і грамадская дзейнасць» (1981). Пры даследаванні шляхоў фарміравання сістэмы беларускай мовы М. Г. Булахаў звяртаецца да багатай старажытнарускай пісьмовай спадчыны, а таксама да вуснай народнай творчасці і жывой народнай мовы. У даследчай працы М. Г. Булахава шмат месца займае высвятленне спецыфічных рыс беларускай мовы параўнальна з іншымі славянскімі мовамі. Ён аўтар раздзела «Марфалогія» калектыўнай працы «Усходнеславянскія мовы» (М., 1987), у якім даў супастаўляльную тыпалогію марфалагічнаму ладу трох роднасных усходнеславянскіх моў. Булахаў — сааўтар падручнікаў і навучальных дапаможнікаў для студэнтаў «Беларуская мова» (ч. 1—2, 1955, 1958), «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы» ([т.] 1—3, 1957, 1959, 1961), «Граматыка беларускай мовы» (т. 1, 1962; т. 2, 1966). Гістарычныя вытокі гукавога ладу, граматычных катэгорый і форм, слоўнікавага фонду, устойлівых словазлучэнняў беларускай мовы асвятляў у калектыўнай працы «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» (1957), у шэрагу манаграфій і артыкулаў пра паходжанне асобных слоў і выразаў, якія захаваліся ў беларускай мове ад старажытных часоў, калі яшчэ толькі акрэсліваліся спецыфічныя рысы мовы славян наогул і ўсходніх славян у прыватнасці. Упершыню выдаў дапаможнік «Практыкаванні і матэрыялы па гісторыі беларускай мовы» (1956; перавыдадзены ў 1969 г. пад назвай «Практыкаванні і матэрыялы па курсу гісторыі беларускай мовы»).

У шэрагу артыкулаў свайго энцыклапедычнага слоўніка «Слова аб палку Ігаравым» у літаратуры, мастацтве, навуцы» (1988) М. Г. Булахаў разглядае моўныя рысы помніка і пераклады яго на сучасную беларускую мову, зробленыя Я. Купалам, М. Багдановічам (урывак), М. Гарэцкім, Р. Барадуліным, В. Дарашкевічам, аналізуе працы беларускіх даследчыкаў старажытнага твора.

З шэрагам дакладаў і паведамленняў М. Г. Булахаў выступаў на міжнародных славістычных кангрэсах, сімпозіумах і інш.

*Тв.:* Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў XIX—XX стст. ва ўзаемадзеянні з іншымі славянскімі мовамі. Мн., 1958; Основные вопросы сопоставительной стилистики русского и белорусского языков. Мн., 1979; Старабеларускія назвы роднасці і сваяцтва // З жыцця роднага слова. Мн., 1968; Из наблюдений в области сравнительно-исторического синтаксиса // Весн. БДУ. Сер. 4. 1973. № 2; О некоторых способах выражения словообразовательных значений в белорусском и болгарском языках // Тамсама. 1974. № 2; Сербско-хорватские имена прилагательные на -аст и их эквиваленты в русском и белорусском языках // Јужнословянски филолог. 1973. Кн. 30. № 1—2.

*Літ.:* Л а ш к е в і ч А. І. Педагог, воін, вучоны // Нар. асвета. 1979. № 7; М. Г. Булахов: (К 60-летию со дня рождения) // Исследования по лексике и грамматике: Сб. науч. трудов (Минский пед. ин-т). Мн., 1979; М. Г. Булахов: (К 60-летию со дня рождения) / Русский язык в национальной школе. 1979. № 4.

*І. К. Германовіч.*

## БУЛЫКА АЛЯКСАНДР МІКАЛАЕВІЧ



Беларускі мовазнавец А. М. Булыка нарадзіўся 18 сакавіка 1935 г. ў в. Селішча Навагрудскага раёна. У 1954 г. скончыў Навагрудскае педвучылішча, у 1959 г.— аддзяленне беларускай мовы і літаратуры БДУ. Доктар філалагічных навук (1980), прафесар (1992), член-карэспандэнт АН Беларусі (1994). Працаваў настаўнікам. З 1965 г. ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі (з 1984 г. загадчык аддзела беларуска-рускіх моўных сувязей, з 1992 г. загадчык аддзела гісторыі беларускай мовы).

А. М. Булыка — аўтар больш як 170 навуковых прац па актуальных праблемах беларускага мовазнаўства. Нераспрацаваныя пытанні гістарычнай граматыкі і лексікалогіі, гісторыі беларускай літаратурнай мовы і гістарычнай лексікаграфіі — асноўныя кірункі яго даследаванняў. У манаграфіі «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы» (1970) даследаваў каля 180 свецкіх і рэлігійных, арыгінальных і перакладных помнікаў, старажытных беларускіх рукапісных і друкаваных кніг 14—18 ст., што зберагаюцца ў бібліятэках, архівах і музеях Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільнюса, Мінска, Кіева, Рыгі. Даследуючы графіка-арфаграфічныя нормы ў помніках і адхіленні ад іх, раскрыў функцыянальную ролю галосных і зычных у старабеларускім пісьменстве. Разглядаючы арфаграфічную сістэму старабеларускай мовы ў яе адносінах да жывога маўлення, прааналізаваў арфаграфічныя нормы, якія грунтаваліся на этымалагічна-марфалагічным прынцыпе, і арфаграфічныя рысы, якія скла́ліся пад уплывам жывога народнага вымаўлення ў розных дыялектах. Праз сістэму вынасных літар і надрадковых знакаў А. М. Булыка выявіў арфаграфічнае значэнне некаторых палеаграфічных прыёмаў у старажытным беларускім пісьменстве, што дапамагае правільна чытаць усе напісанні, уласцівыя старажытным помнікам, а гэта, у сваю чаргу, аблягчае вывучэнне многіх аспектаў старабеларускай мовы.

Актуальнасцю пастаўленых праблем, важкасцю высноў вылучаюцца яго працы аб лексічных запазычаннях старабеларускай мовы. У даследаваннях «Даўнія запазычанні беларускай мовы» (1972, кніга змяшчае каля 4000 слоўнікавых артыкулаў, пададзеных у алфавітным парадку; разам з варыянтнымі формамі і дэрыватамі яны ахопліваюць больш за 9500 лексічных адзінак), «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст.» (1980), навукова-папулярнай брашуры «З моў блізкіх і далёкіх» (1986) на вялікім фактычным матэрыяле шматлікіх пісьмовых помнікаў аўтар прааналізаваў старабеларускія запазычанні з моў царкоўнаславянскай, польскай, лацінскай, грэчаскай, цюркскіх, германскіх, літоўскай і інш. Ён раскрыў іх семантыку і этымалогію, паказаў шляхі, якімі словы з гэтых моў пранікалі ў беларускую і замацоўваліся

ў ёй. Асаблівасці і спецыфіку запазычанай лексікі старабеларускай мовы А. М. Булыка даследаваў і ў шматлікіх артыкулах. Вучоны прасачыў, як яна адаптавалася на беларускай глебе, прыжывалася, замацоўвалася і пачынала функцыяніраваць у сістэме беларускай мовы на фанетычным, марфалагічным, словаўтваральным і семантычным узроўнях, як праз розныя паводле жанраў і стыляў пісьмовыя помнікі запазычаныя словы далучаліся да актыўнага слоўнікавага запасу беларускага насельніцтва. Даследчык падрабязна разгледзеў розныя тэматычныя пласты запазычанай лексікі: грамадска-палітычную, юрыдычна-прававую, канцылярскую, сацыяльна-эканамічную, прафесійна-вытворчую, ваенную, рэлігійную, навукі, асветы, літаратуры і мастацтва, батанічную, медыцынскую, словы, што характарызуюць чалавека ў фізічных, псіхічных і інтэлектуальных адносінах, словы паўсядзённага ўжытку, грашовыя адзінкі, назвы адзення і абутку, прадметы туалету, тканін, скур і вырабаў з іх і інш. На падставе такога даследавання аўтар прыйшоў да вывадаў, што запазычанні 14—18 ст. (больш за 4000 адзінак, найбольш інтэнсіўна пранікалі ў беларускую мову ў 16 ст.) значна ўзбагацілі слоўнікавы склад старабеларускай мовы, што павысіла дыферэнцыяцыю і стылістычную гнуткасць мовы, значна палепшыла яе камунікатыўныя здольнасці.

Спецыяльныя артыкулы А. М. Булыка прысвяціў вывучэнню розных недаследаваных аспектаў мовы такіх буйных помнікаў беларускага пісьменства, як «Вісліцкі статут», «Статут Вялікага княства Літоўскага», «Аповесць пра Трою», «Метрыка Вялікага княства Літоўскага» і інш.

Пэўную ўвагу аўтар удзяліў даследаванню царкоўнаславянскай мовы: уплыву старaславянскай лексікі на слоўнікавы склад старабеларускай мовы, пранікненню беларусізмаў у кніжнаславянскую мову і інш.

Шэраг даследаванняў А. М. Булыкі прысвечаны дзейнасці Ф. Скарыны і асаблівасцям мовы яго выданняў — адлюстраванню фанетычных рыс беларускай мовы ў скарынаўскіх выданнях і перакладах, выкарыстанню ў іх заходнеславянскай лексікі і г. д.

А. М. Булыка — адзін з аўтараў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», а таксама навуковы рэдактар гэтай працы, напісаў спецыяльныя артыкулы пра іншамоўную лексіку і лексіку літоўскага паходжання ў гэтым выданні, пра навуковыя прынцыпы ўкладання гэтага слоўніка, распрацоўкі яго артыкулаў.

Даследуе таксама праблемы супастаўляльнага апісання рускай і беларускай моў, некаторыя аспекты двухмоўя ў Беларусі.

*Тв.:* Адлюстраванне вымаўлення ў старабеларускай арфаграфіі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1966. № 1; Эвалюцыя графічнай сістэмы старабеларускай пісьменнасці // Тамсама. 1966. № 2; Да пытання аб беларусізмах у кніжнаславянскай мове // Тамсама. 1969. № 1; Аб царкоўнаславянскіх лексічных элементах у старабеларускай мове // Тамсама. 1969. № 2; Чэшская лексіка ў выданнях Ф. Скарыны // Тамсама. 1970. № 4; Фанетычная і марфалагічная адаптацыя запазычанняў у старабеларускай мове // Тамсама. 1970. № 6; Германізмы ў старабеларускай мове // Тамсама. 1974. № 2; Грамадска-палітычная лексіка лацінскага паходжання ў старабеларускай мове // Тамсама. 1976. № 4; Канцылярская лексіка іншамоўнага паходжання ў старабеларускай мове // Тамсама. 1977. № 3; Запазычаныя тэрміны літаратуры і мастацтва ў старабеларускай мове // Тамсама. 1978. № 5; Вынасныя літары ў старабеларускай пісьменнасці // Беларускі лінгвістычны зборнік. Мн., 1966; Літоўская метрыка // Полымя. 1968. № 2; Надрадковыя знакі ў старабеларускай пісьменнасці // Лінгвістычныя даследаванні. Мн., 1968; Адлюстраванне фанетычных рыс беларускай мовы ў выданнях Ф. Скарыны // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; З гісторыі назоўніка **жывот** у беларускай мове // З жыцця роднага слова: Лексікал. зб. Мн., 1968; Старажытнаруская лексіка як аснова старабеларускай лексічнай сістэмы; Грамадска-палітычная лексіка // Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970; Асваенне старабеларускай мовай запазычанняў на семантычным узроўні // Праблемы мовы і літаратуры: Міжвузаўскі зб., Мн., 1972; Освоение старобелорусским языком тюркизмов на словообразовательном уровне // Тюркизмы в восточнославянских языках. М., 1974; Паланізмы ў старабеларускай пісьменнасці ранняга перыяду // Бел. мова і мовазнаўства: Міжвузаўскі зб. Мн., 1974. Вып. 2; Іншамоўныя лексічныя элементы ў Вісліцкім статуце // Бел. лінгвістыка. Мн., 1974. Вып. 5; Батанічная лексіка грэка-лацінскага паходжання ў старабеларускай мове // Тамсама. 1976. Вып. 9; Запазычаныя назвы грашовых адзінак у старабеларускай мове // Тамсама. 1978. Вып. 12; Семантычная структура запазычанняў у беларускай мове XIV—XVIII стст. // Тамсама. 1986. Вып. 29; Литуанизмы старобелорусского литературно-письменного языка в отношении к белорусским диалектам // Диалектологический сб. Вильнюс, 1974; З лексікі в. Селішча Навагрудскага раёна // Жывое слова. Мн., 1978; Назоўнік. Займеннік. Прыметнік // Булыка А. М., Жураўскі А. І., Крамко І. І. Гістарычная марфалогія беларускай мовы. Мн., 1979; Западнославянская лексика в изданиях Франциска Скорины // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Запазычаныя назвы адзення і абутку ў старабеларускай мове // Slavia Orientalis. 1980. R. 29 , № 1—2; Западные заимствования из сферы религиозной жизни в старобелорусском языке // Rocznik Slawistyczny. 1981. Т. 41, cz. 1; Запазычаныя назвы тканін і скур у старабеларускай мове // Zeszyty Naukowe Universytetu Jagiellońskiego. Kraków, 1983. Zesz. 74; Иноязычная лексика в историческом словаре белорусского языка // Вопр. языкознания. 1985. № 3; Назоўнік // Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст. Мн., 1988; Исторический словарь белорусского языка // Научно-реферативный бюллетень: (Отечеств. лит.) Мн., 1988. № 93. Белорусская лексикография; Беларуская мова канца XV—пачатку XVI ст. // Скарына і яго эпоха. Мн., 1990; Арфаграфія, лексіка // Булыка А. М., Жураўскі А. І., Свяжынскі У. М. Мова выданняў Францыска Скарыны. Мн. 1990.

*І. У. Саламевіч.*

# БУРАК ЛЕАНІД ІВАНАВІЧ



Беларускі мовазнавец Л. І. Бурак нарадзіўся 23 сакавіка 1930 г. ў в. Кульшына Вілейскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1953). Працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР, з 1966 г.— у БДУ. Доктар філалагічных навук (1980), прафесар (1982). Заслужаны работнік народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь (1990). Даследуе сінтаксіс беларускай мовы, пераважна яго структурныя і функцыянальныя асаблівасці. Шматлікія манаграфіі і артыкулы Л. Бурака прысвечаны аналізу фармальнай, семантычнай і камунікатыўнай арганізацыі сказаў і звышсказавых адзінстваў, відаў і сродкаў сінтаксічнай сувязі, характару злучэння і далучэння і іх узаемаадносін у сінтаксічнай сістэме, інтанацыйнага афармлення і стылістычнай дыферэнцыяцыі розных структурных канструкцый, сінтаксічных асаблівасцей мовы твораў Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы і інш. У акадэмічнай «Граматыцы беларускай мовы» (т. 1, 1962; т. 2, 1966) Л. Бурак напісаў шэраг важных раздзелаў пра словаўтварэнне і націск назоўнікаў, адасобленыя, параўнальныя і ўстаўныя канструкцыі, складаназлучаныя і бяззлучнікавыя складаныя сказы. У манаграфіі «Далучэнне ў сучаснай беларускай мове» (1975) па-новаму

раскрыў сутнасць і вызначыў адметныя адзнакі далучэння як аднаго з відаў сінтаксічнай сувязі, устанавіў і ахарактарызаваў яго тыпалагічныя разнавіднасці, прапанаваў кваліфікацыю і сістэматызацыю сродкаў гэтай сувязі і выражаных імі адносін, зрабіў граматычны аналіз разнастайных далучальных адзінак, паказаў камунікатыўную перспектыву і інфарматыўную дастатковасць змешчанага ў іх паведамлення. Садзейнічаць далейшаму павышэнню культуры беларускай літаратурнай мовы прызначаны «Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы» (1980), дзе даецца сістэматызаваны выклад правіл беларускай пунктуацыі, якімі карыстаюцца ў сучаснай пісьмовай практыцы. Л. Бурак — аўтар дапаможнікаў, праграм, метадычных распрацовак і рэкамендацый пра навуковую арганізацыю і ўдасканаленне навучальна-метадычнага працэсу ў сярэдняй і вышэйшай школе, сааўтар дапаможнікаў «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Сінтаксіс» ([ч.]2, 1959), «Сучасная беларуская мова: Практычныя заняткі» (1989, разам з В. П. Краснеем, У. М. Лазоўскім) і інш.

*Тв.:* Пунктуацыя беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1982; Сучасная беларуская мова. 2 выд. Мн., 1985; Сучасная беларуская мова: Сінтаксіс. Пунктуацыя. Мн., 1987; Зборнік практыкаванняў па сучаснай беларускай мове: Сінтаксіс і пунктуацыя. Мн., 1970; Граматычная прырода складаназлучаных сказаў з прычынна-выніковымі і ўмоўна-выніковымі адносінамі // Весці АН БССР: Сер. грамад. навук. 1956. № 4; Класіфікацыя і асноўныя асаблівасці складаназлучаных сказаў са злучальнай сувяззю // Тамсама. 1958. № 1; Сінтаксічныя асаблівасці складаных сказаў са злучнікам *аж (ажно)* // Тамсама. 1959. № 4; Да пытання аб некаторых тыпах складаных сказаў у сучаснай беларускай мове // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1958. Вып. 5; Далучэнне як адзін з відаў сінтаксічнай сувязі састаўных частак складанага сказа // Тамсама. Мн., 1960. Вып. 7; Сінтаксічная роля злучніка *дык* у сучаснай беларускай мове // Лексікалогія і граматыка. Мн., 1969; Далучальныя канструкцыі ў творах Кандрата Крапівы // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972; Ускладненне простага сказа далучальнымі адзінкамі // Slavia Orientalis. 1978. R. 27, № 2; Аб структуры складанага сінтаксічнага цэлага // Тамсама. 1978. № 3; Далучэнне ў канструкцыях з простай мовай // Весн. БДУ. Сер. 4. 1974. № 3; Структура камбінаваных складаных сказаў // Тамсама. 1976. № 3; Бяззлучнікавае разгортванне прэдыкатыўных адзінак // Тамсама. 1977. № 3; Роля злучніка *ды, і* ў простым сказе // Тамсама. 1980. № 1; Стылістычная дыферэнцыяцыя некаторых канструкцый сучаснай беларускай літаратурнай мовы // Тамсама. 1981. № 1; Складанае сінтаксічнае цэлае ў паэме Я. Коласа «Новая зямля» // Тамсама, 1981. № 2; Функцыянальныя аналагі сказаў у драматычных творах Я. Купалы // Тамсама. 1982. № 1; Сінтаксічная аднароднасць як вынік структурнага пашырэння сказа // Тамсама. 1983. № 3; Сінтаксічнае адасабленне як вынік структурнага ўскладнення сказа // Тамсама. 1984. № 2; Бяззлучнікавае паясненне прэдыкатыўных адзінак // Тамсама. 1987. № 1; Часціцы як адзін са сродкаў сінтаксічнай сувязі // Тамсама. 1989. № 1; Складаны сказ і яго інтанацыйныя асаблівасці // Бел. мова. Мн., 1986. Вып. 14; Звышсказавае адзінства і яго інтанацыйныя асаблівасці // Тамсама. Мн., 1988. Вып. 16.

*Н. С. Мажэйка.*

## БЫКАЎ ВАСІЛЬ УЛАДЗІМІРАВІЧ



В. У. Быкаў нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 г. ў в. Бычкі Ушацкага раёна. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984) Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа 1964 г. (за аповесць «Трэцяя ракета», 1962) і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа 1978 г. (за аповесці «Воўчая зграя», 1974, і «Яго батальён», 1975), Дзяржаўнай прэміі СССР 1974 г. (за аповесці «Абеліск», 1971 і «Дажыць да світання», 1973), Ленінскай прэміі 1986 г. (за аповесць «Знак бяды», 1982). З 1956 г. працаваў у газеце «Гродненская правда», у 1972—78 гг. сакратар Гродзенскага аддзялення СП Беларусі. З 1978 г. жыве ў Мінску.

Творы В. Быкава пазначаны высокім грамадзянскім пафасам, верай у духоўныя магчымасці чалавека, нянавісцю да подласці, хлусні, здрадніцтва. Яны перакладзены на мовы народаў нашай краіны і замежныя мовы (па звестках ЮНЕСКА, больш чым у 50 краінах свету). Пераважная большасць з напісанага В. Быкавым пра мінулую вайну ў самых яе драматычных праявах належыць да аднаго жанру — аповесці, з яе ёмістасцю, сцісласцю і канкрэтнасцю. І хаця вядома яна была і раней, у крытыцы за адметнасць яе называюць быкаўскай.

Традыцыйны для В. Быкава прыём рэзкіх кантрастаў — самаахвярнасць адных і духоўнае калецтва другіх, змаганне чалавечнасці з бесчалавечнасцю — знаходзіць сваё ўвасабленне і ў адборы моўных сродкаў, мастацкіх дэталяў. Сіла ўздзеяння слова таленавітага пісьменніка спрацоўвае непрыкметна, але моцна.

Партрэтныя замалёўкі герояў В. Быкава, як правіла, нешматслоўныя, скупыя. У іх пераважаюць стылістычна нейтральныя словы, якія падкрэсліваюць фізічную нядужасць, несамавітасць герояў: *шыракатвары, з цяжкімі сківіцамі* старшына Карпенка («Жураўліны крык»); *худы, з запалымі грудзямі, з забінтаванай шыяй і зашчацінеым тварам* баец Фішар («Жураўліны крык»); *хлопец дробнай касці* Крывёнак («Трэцяя ракета»); *немалады, рудавусы, ссінелы з твару, трошкі крываваты ў нагах* камандзір Жаўтых («Трэцяя ракета»); *камлюкаваты* Шчарбак («Здрада»); *дайганогі, худы і нязграбны* старшына Дзюбін («Дажыць да світання»); *хліпкі, змораны* Півавараў (тамсама); *счарнелы на сцюжы, з заінелым ад дыхання шчаціннем* твар Сотнікава («Сотнікаў»).

У агульным кантэксце нялёгкага роздуму пра чалавека на вайне партрэтныя характарыстыкі, не ўскладненыя вобразна-выяўленчымі сродкамі (эпітэтам, параўнаннем, метафарай), набываюць мастацкую значнасць. Пісьменніка найперш цікавіць, адкуль, дзе і як гэтыя стомленыя, спакутаваныя людзі знаходзяць сілы застацца людзьмі ў абставінах бесчалавечных.

Героі В. Быкава жывуць на розных полюсах — дабрыні і лютасці, сумленнасці і подласці. Таму партрэтныя замалёўкі здраднікаў, фашыстаў змяняюцца, набываюць іншую танальнасць. Нейтральная лексіка ў іх саступае месца стылістычна афарбаванай. Так, з сінанімічнага рада з дамінантай *тоўсты* для партрэта Пшанічнага з аповесці «Жураўліны крык» аўтар выбірае стылістычна зніжаны эпітэт *мардаты*. Пісьменнік скарыстоўвае яго кожны раз пры апісанні непрыемнага, укормленага твару байца. Падсвядома яшчэ да здрады Пшанічнага ўзнікае пачуццё непрыязнасці, агіды да гэтага персанажа: *Спаважна падаў сваю пухлую далонь непаваротлівы, **мардаты** Пшанічны...; На яго **мардаты,** з тлустымі вуснамі твар лягла ленаватая сытасць...; Пшанічны крыва ўсміхнуўся сваім **мардатым** няголеным тварам...* Побач з гэтым эпітэтам нават нейтральныя словы набываюць адмоўную стылістычную афарбаванасць: *непаваротлівы, мардаты* Пшанічны, *мардаты нягалены* твар.

У адмоўных апісаннях пераважаюць стылістычна зніжаныя сінонімы,

напрыклад, *морда, вызверыцца, бугай* (параўнаем нейтральныя *твар, крыкнуць, здаравяк*): *няголеная ў белай шчэці* ***морда*** паліцая Стася («Сотнікаў»); ... *рантам* ***вызверыўся*** *паліцай;* тутэйшы кат, паталагічна адданы свайму рамяству,— *здаравенны* ***бугай*** *на два метры росту, з касцістым,* ***нібы конская морда,*** *тварам...*

Маральныя страты, духоўны прымітывізм пакідаюць свой адбітак на абліччы, таму з партрэтаў здраднікаў знікаюць чалавечыя рысы, усё выразней праступае нялюдскае ў іх абліччы. Усё чалавечае — нават знешне — паглынаецца звярыным, драпежніцкім. Невыпадкова ў аўтарскіх абмалёўках са словамі з семантычнага поля 'чалавек' цесна пераплятаецца лексіка семантычнага поля 'жывёльны свет': ***вепрукаваты*** *паліцай;* следчы паліцыі Партноў («Сотнікаў») ***набычыў*** *велікаваты для яго* ***тхарынага*** *тварыка выпуклы, з глыбокімі залысінамі лоб*; *палохаў увесь яго* [ката] ***драпежны медзведзяваты*** *выгляд, асабліва вялізныя* ***касматыя*** *рукі.*

Любімы прыём пісьменніка пры абмалёўцы партрэта — засяроджанасць на вачах герояў. Увага чытача пры гэтым зрэдку фіксуецца на знешніх дэталях — колеры, форме, памеры. Найперш акцэнтуецца ўнутраная сувязь між знешнасцю і духоўным светам чалавека. Пісьменнік шукае змястоўнага, важкага эпітэта да слова *вочы*, бо менавіта яны адлюстроўваюць у сабе перажытае, шмат гавораць пра чалавека. Так, *рашучыя* вочы Карпенкі падкрэсліваюць упэўненасць, энергічнасць знешне суровага камандзіра. *Свежыя, сумныя, чысцютка-сінія* вочы Глечыка дапаўняюць наша ўяўленне пра маладога байца, які ў апошнія гадзіны жыцця прагне не паратунку, а востра перажывае страту таварышаў, пакутуе ад усведамлення віны перад маці. Скупы партрэт нехлямяжага на выгляд салдата Фішара істотна дапаўняе метафара: *толькі чорныя* ***вочы... свяціліся*** *адбіткам далёкай думкі.* Менавіта вочы Фішара прымушаюць старшыну ўсумніцца ў «сваёй» праўдзе, адчуць, што, апроч знешняга геройства, ёсць яшчэ нейкая сіла, якая штурхнула інтэлігента-кніжніка на самаахвярную смеласць. На фоне суровага ваеннага жыцця з усім яго трагізмам абвострана ўспрымаецца жаночае хараство. Мастацкія параўнанні *чорныя,* ***нібы дзве масліны,*** *вочы* Джуліі («Альпійская балада»), *сінія,* ***як васількі,*** вочы Люсі-Сінявочкі («Трэцяя ракета») працуюць не толькі на прывабнасць партрэта, але і падкрэсліваюць несумяшчальнасць паняццяў жанчына, прыгажосць, вайна.

У партрэтных замалёўках здраднікаў, фашыстаў эпітэты да слова *вочы* сведчаць пра пошукі пісьменнікам глыбінных (але не прымітыўных, не прамалінейных) сувязей паміж знешнасцю і страшнай, здзічэлай, здрадлівай сутнасцю тых, хто вышэй за ўсё цэніць магчымасць уцалець любым чынам: немец *аглядаў перабежчыка сваімі* ***лянівымі*** *вачыма;* нямецкі аўтаматчык *з* ***раўнадушнымі*** *вачыма;* у паліцая *лыплівыя, зусім* ***свінаватыя*** *вочкі;* ***учэпістыя*** *вочы Гужа на тоўстым твары матлянуліся па падворку...* («Знак бяды»). У самім эпітэце *сцюдзёныя* (вочы) заключана эмацыянальная ацэнка. *Сцюдзёныя,* халодныя вочы нібы незнарок, спадцішка рыхтуюць нас да здрады Аўсеева («Жураўліны крык»), які ў жаданні захаваць жыццё, пасгупіцца сумленнем, салдацкім доўгам: *Аўсееў... непрыязна бліснуў на старшыну чорнымі* ***сцюдзёнымі*** *вачыма, у якіх былі здзек і пагарда.* Эпітэт *шчылінкі-вочкі* ў партрэце Блішчынскага («Здрада») таксама невыпадковы. Нездарма вочы называюць люстэркам душы. Па вачах можна ўразумець, здагадацца пра сапраўдную сутнасць чалавека. Вочы высвечваюць нават падспуднае, глыбока затоенае. Блішчынскі, маральна гатовы да здрады, глядзіць на свет ***шчылінкамі-вочкамі,*** хаваючы прынятую ім філасофію ўратавання сябе цаною шкурніцтва, подласці. У аповесці «Знак бяды» пісьменнік скарыстоўвае эпітэты *бессаромныя, нахабныя* (вочы фашыстаў). З прыходам немцаў на хутар наступіла часіна тупой, сляпой сілы, якая ўварвалася ў нармальнае жыццё з яго адчуваннем *перавагі спрадвеку ўстаноўленай праўды.* Гэтая тупая сіла праступае не толькі ў мажлівасці адабраць — падараваць жыццё. Тупая сіла заваёўнікаў свету пасялілася і ў вачах фашыстаў — *бессаромных, нахабных, здзічэлых.*

Прыёму кантрасту — несхаванай сімпатыі да адных і непрыняцця другіх — пры абмалёўцы партрэта, характару герояў пісьменнік прытрымліваецца паслядоўна. Нават у камічных сітуацыях, такіх рэдкіх сярод болю і смерці, героі В. Быкава рэагуюць на смешнае, жартоўнае па-рознаму. Так, *мілая і прыгожая* Люся-Сінявочка смяецца *дробненька,* па-дзіцячы шчыра; Жаўтых, як і належыць камандзіру, усміхаецца *паважна;* Іван Цярэшка («Альпійская балада») усміхаецца *ніякавата, нязвыкла,* бо вайна адвучыла яго ад праяўлення звычайных чалавечых эмоцый; у маладой радысткі Клавы («Воўчая зграя»), вайна для якой яшчэ ахутана рамантыкай, смех *гарэзны,* у трывозе за немаўля яна ўсміхаецца *аднымі вуснамі.*

Сінанімічны рад з дамінантай *смяяцца* дапаўняецца словамі зусім іншай стылёвай танальнасці, калі гаворка ідзе пра тых, хто зрабіў адназначны выбар паміж магчымасцю загінуць годна або застацца жыць ганебна: Задарожны *дурасліва* ***ўхмыляецца*** *ўсім сваім поўным, паголеным тварам* («Трэцяя ракета»); паліцай ***рагатнуў*** *хрыпатым, накшталт казлінага бляяння, голасам;* Блішчынскі ***заржаў*** *— прыцішана, выскаляючы вялікія пярэднія зубы з дзяснамі;* немцы ***скалілі*** *белыя* ***зубы.***

Прырода ў творах В. Быкава таксама існуе на мяжы жыцця і смерці, таму пейзажныя замалёўкі не парушаюць традыцыйнага для пісьменніка прыёму рэзкіх кантрастаў. На фоне велічы чалавечага духу і праяўлення зла ва ўсіх яго формах апісанні прыроды ў некаторых творах падаюцца ў бела-чорных, кантрастных фарбах. Гэтая кантрастнасць найчасцей ствараецца антонімамі, якія проціпастаўляюцца традыцыйна, рэгулярна *(белы—чорны; светлы—цёмны): Белы зімовы прасцяг усё шырэй рассцілаўся навокал, выставіўшы як напаказ усе* ***чорныя*** *плямы зямлі* («Здрада»); ***Чорнае*** *неба прыўзнялося, аддзялілася ад зямлі, унізе ляжала на дзіва спакойнае* ***белае*** *поле* («Дажыць да світання»).

У пейзажных замалёўках празаік яшчэ больш эканомна, скупа карыстаецца мастацкімі тропамі, пазбягае квяцістых метафар, нечаканых эпітэтаў. Ужытыя аўтарам параўнанні вельмі рэалістычныя, яны толькі ўдакладняюць, канкрэтызуюць бачанне з'явы або прадмета, падкрэсліваюць успрыманне прыроды вачыма селяніна, хлебароба, працаўніка: *снег быў глыбокі, пульхны,* ***бы вата;*** *у белым,* ***нібы малако,*** *згусцелым тумане; шэры,* ***як крыло курапаткі,*** *прысыпаны снегам хрыбет; белыя,* ***як авечы статак,*** *воблакі; чысцюсенькая,* ***як сляза,*** *кропля.*

В. Быкаў імкнецца да лагічнасці, дакладнасці азначэнняў. Некаторыя азначэнні паўтараюцца шмат разоў, ствараюць знешнюю аднастайнасць апісанняў прыроды: *сцюдзёны сіверны вецер, студзіў твар сіверны вецер, сцюдзёнае неба, золкі восеньскі вецер, змрочная маса сасняку, змрочнае неба, змрочная расселіна, змрочны сыры туман, сырая, змрочная цясніна, змрочныя скалы...*

Пераважная бела-чорная каляровая гама, знешняя аднастайнасць прыродных замалёвак, суладныя рэальным умовам франтавога быту, трымаюць чытача ў напружанні, трывозе за лёс герояў, для якіх пастаянным спадарожнікам была смерць.

З асаблівасцей мовы пісьменніка на граматычным узроўні варта адзначыць ролю дзеяслова ў мастацкім стылі В. Быкава. Дзеяслоў стварае дынамізм, паказвае зменлівасць падзей, хуткаплыннасць часу, жыцця на вайне: *Вецер з шалёнай восеньскай лютасцю* ***абтрасаў*** *бярозы над шляхам,* ***церабіў, вымятаў*** *лісцвяны маладняк прысадаў,* ***гнаў*** *цераз чыгунку ў шэрую далеч шапатлівыя сткі лісця* («Жураўліны крык»). Дзеясловы *абтрасаў, церабіў, вымятаў, гнаў,* дэталізуючы дзеянне, перадаюць шалёную сілу ветру, яго ўладарнасць, восеньскую няўтульнасць, золь, пра-

цуюць на агульную танальнасць твора, абвастраюць пачуццё безабароннасці байцоў у трагічнай сітуацыі.

В. Быкаву ўласціва творчае скарыстанне фразеалагічнага запасу народнай мовы: *Ён* [Ляўчук] ***мераў на свой партызанскі аршын****, хто ж ведаў, што ў гэтай масквічкі свае, іншыя, чым у яго, меркі* («Воўчая зграя»). Абнаўляючы фразеалагічную адзінку ўключэннем у яе склад прыметніка *партызанскі* пісьменнік набліжае яе да канкрэтнай сітуацыі, удакладняе характар Леўчука, які, пашкадаваўшы дзяўчыну, не пабудзіў яе на варту. Па яго, партызанскіх мерках, гэта было па-чалавечы, па-мужчынску. Маладзенькая радыстка з Масквы, якая праспала першае баявое заданне, успрыняла шкадаванне як абразу яе партызанскай, салдацкай годнасці.

Значныя заслугі В. Быкава ў развіцці беларускай літаратурнай мовы, асабліва ў распрацоўцы лексічных пластоў, звязаных з вайсковай сферай, армейскім асяроддзем, адлюстраваннем ваеннай рэчаіснасці.

Пісьменнік уводзіць у мову персанажаў шмат дыялектных фарбаў лепельска-ўшацкага бытавання. Але аўтарская мова мае выразна ўнармаваны характар, яе можна лічыць сапраўдным узорам менавіта літаратурнай, а не дыялектнай мовы.

У шматлікіх артыкулах, інтэрв'ю В. Быкаў значную ўвагу аддае пытанням мовы, яе культуры і чысціні. Як сапраўднага патрыёта, грамадзяніна, пісьменніка хвалююць стан, узровень развіцця нацыянальнай мовы. В. Быкаў з трывогай піша пра «пэўнае звужэнне моўнага нацыянальнага арэала», выступае супраць «шэрай, невыразнай, канцылярскай мовы», супраць злоўжывання дыялектызмамі (артыкул «Нашы надзённыя клопаты» — у яго кн. «Праўдай адзінай», Мн., 1984. С. 191).

Надзённа гучаць словы пісьменніка пра «важнасць для нацыі адзінай літаратурнай мовы». З клопатам пра роднае слова, пра будучыню беларускай мовы В. Быкаў напамінае: «Калі нацыя хоча развіваць культуру па высокіх сучасных стандартах, яна павінна валодаць моваю гнуткай, багатай, мілагучнай і — рознастылёвай» (артыкул «Зарука нашае будучыні» — Тамсама. С. 195—196).

*Літ.:* Буран В. А. Васіль Быкаў. Мн., 1976; Бузук М. П. Мова твораў В. Быкава//Асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу ў Беларусі на сучасным этапе. Мн., 1979; Бугаёў Дз. Васіль Быкаў: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1987; Рабкевіч В. На агульнае карыстанне//ЛіМ. 1986. 14 сак.; Лапіцкая І. М. Лексічныя русізмы ў мове мастацкіх твораў В. Быкава//Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 5.

*Л. С. Васюковіч.*

## БЯЛЬКЕВІЧ ІВАН КАНДРАТАВІЧ



Беларускі мовазнавец І. К. Бялькевіч нарадзіўся 6 сакавіка 1883 г. ў в. Варонічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і. У 1909 г. скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, пасля чаго быў загадчыкам 4-класнай школы ў в. Бракава на Слонімшчыне. У 1915 г. з набліжэннем фронту мясцовае насельніцтва было эвакуіравана ў глыбокі тыл, і І. К. Бялькевіч апынуўся на Сараташчыне. У 1919 г. вярнуўся на радзіму, працаваў загадчыкам Варонічкай беларускай школы, інспектарам беларускіх школ Слонімскага павета. У жніўні 1920 г. пераведзены ў Мінск загадчыкам беларускага аддзела Народнага камісарыята асветы БССР. У 1925 г. скончыў этнолага-лінгвістычнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага універсітэта, пасля чаго быў пасланы ў Мсціслаў дырэктарам педтэхнікума. У 1927 г. пераехаў у Мінск і пачаў працаваць у Інбелкульце, спачатку сакратаром Аддзела гуманітарных навук, а пасля спецыялістам Слоўнікавай камісіі. У 1930 г. быў беспадстаўна абвінавачаны ў нацыяналізме і высланы за межы Беларусі. Чатыры гады працаваў на лесасплаве, потым пераехаў у Азова-Чарнаморскі край, дзе выкладаў рускую мову і літаратуру ў Натальеўскай сярэдняй школе, у школах Марыупаля. З 1948 г. да 1955 г.— загадчык навучальнай часткі вучэбнага пункта «Азоўсталь», з 1955 да 1958 г. быў інжынерам-метадыстам Марыупальскага філіяла Данецкага вячэрняга будаўнічага тэхнікума. Памёр І. К. Бялькевіч 18 кастрычніка 1960 г., так і не атрымаўшы дазволу вярнуцца на Радзіму.

І. К. Бялькевіч у 20-х гадах выступаў з артыкуламі па культуры беларускай літаратурнай мовы, з рэцэнзіямі на мовазнаўчыя працы. Ён удзельнічаў у рабоце Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (1926). Самым значным яго навуковым дасягненнем з'яўляецца «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» (1970). Працаваць над ім па заданні Інбелкульта ён пачаў з канца 1925 г., калі быў прызначаны дырэктарам Мсціслаўскага педтэхнікума. З дапамогай мясцовых карэспандэнтаў збіраў фактычны матэрыял, лексікаграфічную апрацоўку яго завяршыў незадоўга перад смерцю. Слоўнік павінен быў адлюстраваць лексіку жывой народнай мовы былой Калінінскай акругі. Яна тады ўключала 10 раёнаў: Бялынкавіцкі, Касцюковіцкі, Клімавіцкі, Краснапольскі, Крычаўскі, Мілаславіцкі, Мсціслаўскі, Раснянскі, Хоцімскі і Чэрыкаўскі. Але ў працэсе збору лексічнага матэрыялу І. К. Бялькевіч выйшаў за межы былой Калінінскай акругі і адлюстраваў у слоўніку лексіку не Калінішчыны, а ўсходняй Магілёўшчыны. Слоўнік змяшчае каля 20 тысяч вузкарэгіянальных і агульнабеларускіх лексем. Усе яны пададзены ў алфавітным парадку з захаваннем мясцовага вымаўлення і тлумачацца літаратурнымі адпаведнікамі, а калі іх няма, то — апісальна. Кожная лексема ілюструецца прыкладамі звязнага тэксту з указаннем населенага пункта, у якім яна запісана. Указваецца часціна мовы. У назоўніках прыводзіцца канчатак роднага склону адзіночнага ліку і абазначаецца род. У якасці загалоўных укладальнік дае ўсе фанетычныя варыянты слоў, паасобку тлумачыць і ілюструе іх прыкладамі звязнага тэксту, але фанетычны прынцып напісання слоў вытрымліваецца непаслядоўна. Гэта перш за ўсё датычыцца перадачы дысімілятыўнага акання і якання, мяккага і цвёрдага вымаўлення некаторых зычных гукаў. У некаторых выпадках назвы птушак і раслін тлумачацца вельмі агульна, без суаднясення іх з адпаведнымі беларускімі літаратурнымі тэрмінамі, што не дае чытачу магчымасці зразумець, пра што вядзецца размова. Аднак пры ўсіх сваіх недахопах слоўнік з'яўляецца каштоўным укладам у беларускую лексікаграфію. Ён атрымаў высокую ацэнку спецыялістаў і часта выкарыстоўваецца айчыннымі і замежнымі лінгвістамі.

*Тв.:* Слоўнік граматычна-лінгвістычны // Узвышша. 1928. № 2(8); [Выступленні на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі] // Працы Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мн., 1927.

*Літ.:* Германовіч І. К., Лапаў Б. С. І. К. Бялькевіч і яго слоўнік//Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970.

*І. К. Германовіч*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Родная мова ў дакладным значэнні ёсць самая любімая спадчына нацыі: праз яе пасрэдніцтва найлягчэй пранікнуць у душу нацыі, закрануць пачуцці, праясніць розум, падштурхнуць адпаведную думку, заклікаць да дзеяння, змагацца са страсцямі, ствараць дабрачыннасці.*

Аляксандр Ельскі



**В** — *трэцяя літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай В («ведзі»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай В («віта»), якая ў сваю чаргу з'яўлялася графічным відазмяненнем класічнай грэчаскай β («бэта»). Адрозненне ў вымаўленні кірыліцкай В ад лацінскай В абумоўлена тым, што ў перыяд стварэння славянскага алфавіта ў 9 ст. «віта» вымаўлялася грэкамі як «в» і перадала сваё гукавое значэнне кірыліцкай В («ведзі»), а лацінскі алфавіт узнік на аснове грэчаскага яшчэ ў 7—6 ст. да н. э., калі «бэта» абазначала гук «б». У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* в, в' (вапна, вішня — *«в'ішн'а»). Мела таксама лічбавае значэнне «два», з дадатковымі значкамі ≠ В — 2000, В⃝— 20 000, В⃝— 200 000, в⃝— 2 000 000. У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрознівацца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае санорныя фрыкатыўныя губна-зубныя зычныя гукі* в, в' (вада, вясна — *«в'асна»), якія ў адрозненне ад рускай мовы не знаходзяцца ні ў якіх функцыянальных суадносінах з шумнымі глухімі фрыкатыўнымі губна-зубнымі зычнымі гукамі ф, ф' і пасля галосных перад зычнымі, а таксама ў канцы слоў пераходзяць у ў* (воўк, спеў — *«с'п'эў»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ВАК, ВНУ). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «трэці» (група «В»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 4в).* А. М. Булыка.

## ВАЙТОВІЧ НІНА ТРАФІМАЎНА



Беларускі мовазнавец Н. Т. Вайтовіч нарадзілася 10 ліпеня 1913 г. ў мястэчку Дрыса (цяпер Верхнядзвінск) Віцебскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. Доктар філалагічных навук (1967). Скончыўшы ў 1930 г. Полацкае педагагічнае вучылішча, настаўнічала. У 1937 г. скончыла філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Пасля года выкладчыцкай працы вучылася ў аспірантуры пры гэтым інстытуце. У кастрычніку 1943 г. прызначана начальнікам Упраўлення пачатковых і сярэдніх школ Народнага камісарыята асветы БССР. Праз год перайшла на работу ў пединстытут мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР, а з чэрвеня 1945 г. працягвала аспірантскую вучобу пры Маскоўскім універсітэце. У 1947 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю па мове Баркалабаўскага летапісу і пачала працаваць у Мінскім пединстытуце імя М. Горкага на кафедры беларускай мовы, з 1949 г. загадвала гэтай кафедрай. З 1956 г.— старшы навуковы супрацоўнік сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства АН БССР. Памерла Н. Т. Вайтовіч 4 сакавіка 1976 г.

Галоўнымі аб'ектамі навуковых даследаванняў Н. Т. Вайтовіч былі дыялекталогія і гісторыя беларускай мовы. У манаграфіі «Ненаціскны вакалізм народных гаворак Беларусі» (1968) выяўлены колькасныя і якасныя суадносіны асобных груп галосных у залежнасці ад пазіцыйных умоў і прадстаўлены ў выглядзе фанематычных мадэлей, вызначана тэрытарыяльнае пашырэнне кожнай мадэлі. Вялікая ўвага аддадзена аналізу пераходных тыпаў ненаціскнога вакалізму, што ўзніклі на аснове ўзаемадзеяння недысімілятыўнага і дысімілятыўнага акання — якання, раскрыта прырода так званай гармоніі галосных у гаворках і выказаны цікавыя думкі пра яе паходжанне.

Н. Т. Вайтовіч прымала ўдзел у стварэнні такіх даследаванняў, як «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі» (1962), «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69). За працы па беларускай лінгвагеаграфіі разам з іншымі ў 1971 г. ўдастоена Дзяржаўнай прэміі СССР.

Высокую ацэнку спецыялістаў атрымала манаграфія Н. Т. Вайтовіч «Баркалабаўскі летапіс» (1977). У ёй дадзена грамадска-палітычная і сацыяльна-эканамічная характарыстыка эпохі, у якую ствараўся вядомы

помнік старога беларускага пісьменства, выказаны меркаванні пра яго аўтарства, час і месца напісання, падрабязна прааналізаваны палеаграфічныя, арфаграфічныя, фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці тэксту. У дадатку змешчаны тэкст помніка з захаваннем графікі і арфаграфіі рукапіснага арыгінала.

Шэраг артыкулаў і даклад на IV Міжнародным з'ездзе славістаў (1958) Н. Т. Вайтовіч прысвяціла пытанню фарміравання сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Яна з'яўляецца аўтарам вучэбных праграм для педінстытутаў рэспублікі па дыялекталогіі і гістарычнай граматыцы беларускай мовы і падручніка для 6-га класа «Родная літаратура», якія вытрымаў 16 выданняў (1945—60).

*Тв.:* Да пытання аб фарміраванні нацыянальнай літаратурнай беларускай мовы: Аб суадносінах літ. мовы і дыялектаў. Мн., 1958; Да пытання аб паходжанні беларускага дзекання і цекання//Вуч. зап. Мінскага пед. ін-та. Мн., 1950. Вып. 1.; Аб дыялектных асаблівасцях у мове вучняў//Сав. школа. 1954. № 2; Да характарыстыкі сучасных беларускіх народных гаворак: (Гаворкі вёскі Лучын Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці)//Уч. зап. Минского пед. ин-та. Мн., 1956. Вып. 6; Аб тыпах акання ў першым складзе перад націскам пасля цвёрдых зычных у беларускіх гаворках: (Па матэрыялах дыялекталагічных экспедыцый)//Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1958. Вып. 5; Аб рэалізацыі ненаціскнога гука *ы* ў беларускіх гаворках//Тамсама. Мн., 1960. Вып. 7; Оканне ў гаворках Беларусі//Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1961. № 3; Аб своеасаблівай гармоніі галосных у паўночна-ўсходніх беларускіх гаворках//Тамсама. 1965. № 2.

*Літ.:* Жураўскі А. І. Ніна Трафімаўна Вайтовіч//Бел. лінгвістыка. Мн., 1976. Вып. 10. Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды: Библиогр. словарь. Т. 2. Мн., 1977. С. 129—133. *І. К. Германовіч.*

## ВАСІЛЕЎСКІ МІКАЛАЙ СЯМЁНАВІЧ

Беларускі мовазнавец М. С. Васілеўскі нарадзіўся 10 снежня 1928 г. ў в. Макраны Капыльскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1948 г. скончыў Нясвіжскае педвучылішча, а ў 1954 — філалагічны факультэт Мінскага педінстытута імя М. Горкага. Доктар філалагічных навук (1986). Настаўнічаў на Случчыне. З верасня 1958 да верасня 1961 г.— аспірант кафедры беларускай мовы Мінскага педінстытута імя М. Горкага, з кастрычніка 1961 да жніўня 1968 г.— загадчык Беларускага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, з верасня 1968 г.— старшы выкладчык, дацэнт, загадчык кафедры агульнага мовазнаўства Мінскага педінстытута за-



межных моў, з верасня 1978 г.— дацэнт кафедры агульнага і рускага мовазнаўства Мінскага педінстытута, з 1989 г.— прафесар кафедры рускай мовы для нацыянальнай школы ў гэтым інстытуце. Памёр М. С. Васілеўскі 14 снежня 1989 г.

М. С. Васілеўскі — аўтар манаграфій «Прадуктыўныя тыпы дзеясловаў у сучаснай беларускай мове» (1970) і «Дзеяслоўнае словаўтварэнне: Адыменныя суфіксальныя лексемы» (1985). У першай прааналізаваў дзеясловы, утвораныя ад розных часцін мовы пры дапамозе суфіксаў *-ніча-*, *-а-*, *-ка-*, а ў другой — дзеясловы, утвораныя ад назоўнікаў і прыметнікаў пры дапамозе суфіксаў *-ава- (-ява-)*, *-ствава-*, *-ірава- (-ырава-)*, *-ізава- (-ызава-)*, *-фікава- (-іфікава-*, *-ыфікава-*, *-афікава-)*, *-і- (-ы-)*, *-е- (-э-)*. Пры аналізе гэтых вытворных дзеясловаў вялікую ўвагу аддаваў выяўленню іх семантычных, структурных і граматычных асаблівасцей, вызначэнню ступені прадуктыўнасці кожнага словаўтваральнага тыпу і кожнай словаўтваральнай мадэлі ва ўсіх стылёвых разнавіднасцях беларускай літаратурнай мовы, лексіка-граматычнай характарыстыцы ўтваральных асноў і марфалагічным зменам, якія ў іх адбываюцца пры словаўтварэнні: выпадкам змены месца націску, чаргаванню канечных зычных, усячэнню канцавых гукаў, інтэрфіксацыі на марфемным шве і г. д.

*Тв.:* Дасканала валодаць інструментам: Заўвагі аб мове // Маладосць. 1963. № 9; Романо-германские заимствования в белорусских глаголах // Вопр. филологии. (Романо-германская филология): Мн., 1973. Вып. 3; Новыя дзеясловы ў беларускай мове // Вопросы романо-германского и общего языкознания. Мн., 1973; Складаныя дзеясловы // Вопросы романо-германского и славянского языкознания. Мн., 1975; Марфаналагічныя фактары беларускага дзеяслоўнага словаўтварэння // Бел. лінгвістыка. Мн., 1976. Вып. 10; Дзеяслоўная сінаніміка // Тамсама. Мн., 1988. Вып. 34; Мікратапонімы вёскі Макраны // Бел. анамастыка. Мн., 1981; Неалагізм у мастацкім творы // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 5.

*І. К. Германовіч.*

## ВІСЛІЦКІ СТАТУТ

Вісліцкі статут — помнік юрыдычнага зместу, разнавіднасць дзелавога пісьменства, падрыхтаваны на аснове феадальнага права Польшчы, якое адлюстроўвала магутнасць каралеўскай улады, пераход ад натуральнай рэнты да грашовай. Ён сістэматызаваў законы феадальнага права ў Вялікім княстве Літоўскім. Першапачаткова ў 1346 г. на лацінскай мове быў створаны Петракоўскі статут (34 артыкулы), потым у 1347 г. ў Вісліцы быў дапоўнены (59 артыкулаў) і стаў вядомы як Вісліцкі статут. Лацінскі арыгінал 1347 г. паслужыў асновай для перакладу на старабеларускую літаратурную мову ў пачатку 15 ст. (каля 1423 г.). Гэта дапрацаваная рэдакцыя лацінскага тэксту, у якой сістэматызаваны прававыя нормы жыхароў, адпаведныя тагачасным эканамічным і палітычным умовам жыцця. Уніфікацыя правоў была накіравана на ўмацаванне феадальных маёмасных адносін, на рэгламентацыю ўмоў пакідання сялянамі зямлі, адмянялася права «мёртвай рукі», паводле якога феадал прэтэндаваў на частку маёмасці памерлага селяніна. У параўнанні з лацінскім выданнем перакладны тэкст быў дапоўнены многімі новымі артыкуламі працэсуальнага і крымінальнага права. Яго змест складаецца з 138 артыкулаў з прадмовай, дзе гаворыцца, што з'яўленне гэтага збору законаў з прававымі нормамі для насельніцтва дзяржавы абумоўлена скаргамі многіх жыхароў па судовых рашэннях, якія часта залежалі ад характару асабістых адносін афіцыйных асоб і скаржнікаў. У статуце артыкулы размешчаны ў пэўнай сістэме. Адны з іх кадыфікавалі прававыя нормы агульнадзяржаўнага значэння, у другіх змешчаны пастановы за выяўленыя злачынствы наогул (плата гатоўкай), у трэціх вызначалася велічыня штрафу ў залежнасці ад сацыяльнага становішча жыхароў, у чацвёртых велічыня штрафу назначалася з дыферэнцыяцыяй здзейсненага злачынства. Стваральнікам статута быў польскі кароль Казімір III Ягелончык.

Помнік дае многа цікавага матэрыялу для назіранняў над эвалюцыяй мовы канцылярска-юрыдычнага пісьменства. У ім сустракаюцца такія фанетычныя асаблівасці беларускай мовы, як адсутнасць галоснага гука [и] у пачатку некаторых дзеяслоўных форм (*маеть, мають*); чаргаванне

*в—у (узяти, у нашей, у чюжій лѣсъ, у вислицы);* цвёрдыя шыпячыя, *р, ц (ижъ, такожъ, шляхтичъ, нашъ, говорылъ, конецъ, отецъ, дѣльницы, овцы);* пераход прыназоўніка і прыстаўкі *съ* у *зъ (зъ рады, знашель, зрубить).* У тэксце зафіксаваны розныя марфалагічныя асаблівасці тагачаснай беларускай мовы, сярод якіх адносна рэгулярнымі былі формы роднага склону неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку на *-у (збытку, ужитку, часу),* жаночага роду на *-и* замест *-ѣ, -е (воли, матери);* упершыню шырока выкарыстоўваецца канчатак *-ови (-еви)* у давальным склоне адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду *(служебникови, пастухови, писареви),* супадзенне ў адушаўлёных назвах форм вінавальнага склону з родным *(имаеть вепря... забить);* канчатак *-ей* у родным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду былых асноў на *-о (грошей), -ми* — у творным *(грошьми), -ы* — у спалучэнні назоўнікаў былых асноў на *-у* з лічэбнікам *два (два волы),* форм роднага склону прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку на *-ое (до границы земское, коруны Польское),* указальных і пытальна-адносных займеннікаў мужчынскага і ніякага роду з каранёвымі *-ы, -и* ў творным склоне адзіночнага і множнага ліку *(тымъ, чий, чимъ, всихъ, всимъ, тыхъ, тыми);* шматлікія формы інфінітыва на *-ть (быть, выдать, дать, держать, забить, зрубить, ловить, платить, положить, чудить, учинить);* адсутнасць канцавога *т* у дзеясловах будучага простага часу трэцяй асобы адзіночнага ліку *(приведе);* дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі з фармантам *-ч- (седячому, знаючи, сеючы, стоячи).*

Сярод сінтаксічных асаблівасцей Вісліцкага статута найбольш паказальнымі для беларускай мовы з'яўляюцца спалучэнні прыназоўніка *до* з формай роднага склону назоўнікаў замест традыцыйных прыназоўнікаў *къ, въ* плюс давальны або вінавальны *(шляхтичъ шляхтичу лаетъ до матери; овцю пригонилъ до села; медъ несъ до своего дому).*

Адметнасць слоўнікавага складу Вісліцкага статута — шырокае ўжыванне семантычна разнастайных слоў, сярод якіх прыкметнае месца займае лексіка грамадска-палітычнага і юрыдычнага зместу. Значную частку слоў гэтага тыпу складаюць словы агульнаўсходнеславянскага паходжання *(вина, голова* 'забіты чалавек', *гривна* 'грашовая адзінка', *жалоба, законъ, закладъ, землянинъ* 'уладальнік нерухомай маёмасці', *король, право, судъ, судья, чужоземецъ);* паланізмы *(вердунокъ* 'манета, чацвёртая частка грыўны', *кметь* 'селянін', *коруна* 'карона, каралеўская ўлада', *пенези* 'грошы' *паны-рада* 'саветнікі', *соймъ* 'сейм', *шляхтичъ* 'дваранін').

На агульнаславянскую лексічную аснову помніка накладваецца вялікая колькасць слоў беларускага і польскага паходжання: *вепръ, гай, древо, згинуть, лаянка, лаять, личити, матка, обора* 'хлеў', *оччина, подцковати, позычати, пытати, соромота, статокъ* 'жывёла', *стратить, ховать, хто, шкодникъ, што.* Устойлівымі ў Вісліцкім статуце аказаліся паасобныя словазлучэнні, тыповыя для канцылярскага стылю выкладання: *права поживать; уставити (уложити) право; уставленный законъ; под виною держать; маеть дати.*

Вісліцкі статут паслужыў асноўным матэрыялам і часткова ўзорам для Судзебніка 1468 г. (Статута Казіміра IV Ягелончыка) і Статута Вялікага княства Літоўскага 3 рэдакцый (1529, 1566, 1588 гг.).

Беларускі рукапісны спіс Вісліцкага статута захоўваецца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы ў Маскве. Апублікаваны ў выданні «Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі, сабраныя і выдадзеныя Археаграфічнай камісіяй» (т. 1. Спб., 1846). У 1959 г. польскія даследчыкі С. Роман і А. Ветуляні выдалі Вісліцкі статут фотатыпічным спосабам. Для мовазнаўчага аналізу гэта выданне больш каштоўнае.

*Літ.:* Roman S. i Vetulani A. Ruski przekład polskich statutów ziemskich z rękopisu moskiewskiego. Wrocław; Kraków, 1959; Юхо И. А. Общественно-политический строй и право Литовского государства (XIII—XVI вв.)//История государства и права СССР. М., 1967. Ч. 1; Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст. Мн., 1988; Булыка А. М. Іншамоўныя лексічныя элементы ў Вісліцкім статуце // Бел. лінгвістыка. Мн., 1974. Вып. 5.

*У. В. Анічэнка.*

## ВОЎК-ЛЕВАНОВІЧ ІОСІФ ВАСІЛЕВІЧ

Беларускі мовазнавец І. В. Воўк-Левановіч нарадзіўся 6 лістапада 1891 г. на хутары Лявонаўка былой Свіслацкай воласці Бабруйскага павета (цяпер Асіповіцкі раён Магілёўскай вобласці) у сялянскай сям'і. У 1911 г. скончыў Бабруйскую гімназію і паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Калі пачалася першая сусветная вайна, добраахвотна пайшоў у армію. У баях быў паранены, потым цяжка захварэў. У лютым 1918 г. звольніўся з арміі і прыехаў да бацькоў. Там яго заспелі нямецкая, потым польская акупацыі. Падчас іх выкладаў рускую і лацінскую мовы ў Бабруйскай прыватнай і Клецкай грамадскай гімназіях. У жніўні 1920 г. прызваны ў Чырвоную Армію. Праз 2 гады дэмабілізаваўся і вярнуўся на вучобу ў Петраградскі універсітэт. Скончыўшы яго ў 1923 г., прыехаў



у Мінск, выкладаў беларускую мову ў польскім і яўрэйскім педтэхнікумах. З лютага 1924 г. працаваў у БДУ на кафедры гісторыі беларускай мовы, а з 1927 г. адначасова і ў Інбелкульце навуковым сакратаром Камісіі па ўкладанні гістарычнага слоўніка беларускай мовы. У верасні 1930 г. вымушаны быў пераехаць у Саратаў. Там загадваў кафедрай агульнага мовазнаўства ва універсітэце, праз год — кафедрай агульнага мовазнаўства і рускай мовы ў педінстытуце. З верасня 1934 г. працаваў загадчыкам кафедры рускай мовы і літаратуры ў Арэнбургскім педінстытуце. Там 17 верасня 1937 г. быў беспадстаўна арыштаваны і засуджаны. Памёр у адным з лагераў на Поўначы 19 жніўня 1943 г.

Галоўнымі аб'ектамі навуковых да-




**І. В. Воўк-Левановіч. «Мова выданняў Ф. Скарыны» (вокладка). 1927.**

следаванняў І. В. Ваўка-Левановіча былі гісторыя беларускай мовы і беларуская дыялекталогія. Па гэтых галінах мовазнаўства апублікаваў шэраг артыкулаў, а ў 1927 г. выдаў вучэбны дапаможнік «Лекцыі па гісторыі беларускай мовы». У «Лекцыях» выкладзена першая частка (уступ і фанетыка) праграмнага універсітэцкага курса, які ён чытаў на працягу 1925—27 гг. студэнтам этнолагалінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта БДУ. Пачынаюцца «Лекцыі» ўводзінамі, у якіх раскрыты такія пытанні, як месца беларускай мовы сярод іншых славянскіх, яе дыялектнае чляненне, крыніцы вывучэння гісторыі беларускай мовы, погляды на беларускую мову і яе паходжанне ў спецыяльнай навуковай літаратуры, крытычна прааналізаваны розныя тэорыі славянскай прабацькаўшчыны і ўсходнеславянскай прамовы. Падрабязна апісваецца фанетычная сістэма старажытнай беларускай мовы і разглядаюцца розныя пазнейшыя змены ў ёй. Асноўная ўвага засяроджана на ўзнікненні і развіцці найбольш тыповых фанетычных з'яў, выказаны арыгінальныя думкі аб паходжанні беларускага акання, дзекання і цекання. Рукапісы некаторых іншых завершаных І. В. Ваўком-Левановічам навуковых прац (2-й часткі «Лекцый па гісторыі беларускай мовы», «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы», «Кароткага дапаможніка па агульным мовазнаўстве») пасля арышту аўтара былі страчаны.

*Тв.:* Гістарычнае вывучэнне беларускай мовы ў славянскай філалогіі: Гіст.-метадалаг. нарыс // Працы БДУ. 1925. № 6—7; Беларускае аканне. Мн., 1926; Мова выданняў Францішка Скарыны // Чатырохсотлецце беларускага друку. Мн., 1926; Форма «прошлага ў будучым» (буду + лъ) у мове дакументаў «Літоўскай метрыкі» // Працы БДУ 1927. Т. 16; Важнейшыя рысы гаворкі вёскі Татаркавічы і гаворак ваколічных вёсак // Зап. аддз. гуманіт. навук. Мн., 1928. Кн. 2. Працы класа філалогіі. Т. 1; Аб прынцыпах і метадах укладання гістарычнага слоўніка беларускай мовы // Тамсама. Мн., 1929. Кн. 9, т. 2; Кароткія ўвагі на некаторыя помнікі беларускай мовы ў Ленінградзе // Тамсама. Ещё к вопросу о «ляшских» чертах в белорусской фонетике//Slavia (Praha). 1930. R. 9, seš. 3.

*Літ.:* Германовіч І. К. І. В. Воўк-Левановіч // Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навук. дзейнасці. Мн., 1985.

*І. К. Германовіч.*

## ВУСНАЯ І ПІСЬМОВАЯ МОВА

Беларуская мова, як і многія іншыя, існуе ў дзвюх асноўных формах: вуснай і пісьмовай. Вусная мова — гукавая форма мовы, якой карыстаюцца людзі ў непасрэдных зносінах паміж сабой. Пісьмовая мова — графічная форма мовы, якая дазваляе кантактаваць апасродкавана з дапамогаю тэкстаў, сукупнасць якіх стварае нацыянальнае пісьменства.

Вусная мова — найважнейшая форма існавання і рэалізацыі граматычнага ладу і лексіка-фразеалагічнага моўнага запасу; інакш кажучы, гэта — гаварэнне ці маўленне (гл. **Маўленне**), маўленчы акт як выяўленне камунікатыўнай здольнасці чалавека. Матэрыяльнай асновай вуснага маўлення з'яўляюцца гукі, якія ўспрымаюцца на слых. Вуснае маўленне характарызуецца багаццем інтанацыйных магчымасцей, мелодыкай, лагічным націскам, выразнасцю жывога гучання, наяўнасцю паўз. Інтанацыя — вельмі істотны сродак перадачы сэнсу выказвання, яна здольная выражаць усю складанасць, тонкасць і разнастайнасць пачуццяў, унутраных перажыванняў, настрою асобы, якая гаворыць.

Для вуснай мовы ўласцівы дыялог і маналог (гл. **Дыялог і маналог**). Дыялагічнае маўленне ў сваю чаргу характарызуецца непасрэднасцю зносін, адначасовасцю мыслення і гаварэння, сітуацыйнасцю. У сувязі з гэтым яму ўласцівы меншая ступень дакладнасці слова- і фразеаўжывання, абмежаванне даўжыні сінтаксічных адзінак, звужэнне верагоднасці выкарыстання дзеепрыметных і дзеепрыслоўных зваротаў, ужыванне незвычайных канструкцый — запаўняльнікаў паўз, наяўнасць маўленчых памылак. Маналагічнае маўленне больш разгорнутае і граматычна аформленае; яно патрабуе пэўнай папярэдняй падрыхтоўкі, трэніроўкі маўленчых навыкаў.

Некаторыя лінгвісты вуснае маўленне падзяляюць на гутарковае, або размоўнае, і неразмоўнае, ці афіцыйнае. Неразмоўнае ў сваю чаргу падзяляюць, паводле прынцыпу стылёвай прыналежнасці, на навуковае (навуковая дыскусія, лекцыя і інш.), публіцыстычнае (выступленне на сходзе, публічная лекцыя), дзелавое (выступленне пракурора, адваката, дзелавыя перагаворы парламенцкіх камісій і інш.), мастацкае (вуснае апавяданне, дэкламаванне). Асобныя даследчыкі вылучаюць у афіцыйным вусным маўленні публічнае маўленне (адзін выступаючы і шмат слухачоў) і непублічнае (афіцыйнае, але асабіста адрасаванае, з менаю роляў выступаючых і слухачоў). Афіцыйнае маўленне ў наш час пашырана дзякуючы тэхнічным сродкам масавай інфармацыі: радыё, магнітафонны запіс, тэлебачанне. Павольны тэмп, вытрыманасць вымаўленчых норм, лексіка і сінтаксіс збліжае яго з пісьмовай мовай.

Вуснаму гутарковаму маўленню характэрны амаль усе фанетычныя, лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці размоўнага стылю. Яго ўплыў на вуснае маўленне, агульнасць, падабенства розных тыпаў вуснага маўлення прыводзіць нават да спрэчак вучоных аб істотнасці або неістотнасці супрацьпастаўлення размоўнага і неразмоўнага вуснага маўлення. Вусная мова рэалізуецца і ў народна-дыялектнай асаблівасці.

Пісьмовая мова — больш позняя форма мовы, чым вусная. Гэта апрацаваная і прадуманая фіксацыя мовы з мэтай узнаўлення сказанага, яго ўсведамлення, аналізу. Пісьмовае маўленне ўспрымаецца зрокава.

Пісьмовая форма мовы фіксуецца з дапамогай графічных знакаў, на пэўным матэрыяле (паперы, скуры, тканіне і інш.), на аснове правіл арфаграфіі, пунктуацыі. Гэта дазваляе перадаваць інфармацыю на розныя адлегласці і захоўваць яе ў часе.

Пісьмовая форма рэалізацыі літаратурнай мовы мае спецыфіку ў адборы слоў, устойлівых словазлучэнняў, яна дае магчымасць прадуманага, правільнага размяшчэння слоў у структуры сказаў, перабудовы сінтаксічных канструкцый, замены слоў, іх пошуку ў слоўніках, даведніках. Аўтар пісьмовага тэксту можа вяртацца да напісанага, удасканальваць яго (вядома, што шмат разоў Л. М. Талстой перапісваў «Вайну і мір», І. П. Мележ — раман «Людзі на балоце», А. Н. Карпюк — аповесць «Данута»). На базе пісьмовай фіксацыі літаратурнай мовы фарміруюцца навуковыя, афіцыйна-дзелавыя, публіцыстычныя, літаратурна-мастацкія тэксты. Адбор моўнага матэрыялу падпарадкаваны тым законам, якія «пануюць» у межах таго або іншага тыпу маўлення, уласцівага пісьмовай форме літаратурнай мовы. Напрыклад, у творах мастацкай літаратуры адбор моўнага матэрыялу дыктуецца ці матывуецца эстэтычнай функцыяй; мова мастацкай літаратуры можа ўключаць усё багацце літаратурнай і ў значнай ступені агульнанароднай мовы: усе пласты беларускай лексікі і фразеалогіі з разнастайнасцю іх семантыкі, экспрэсіўных і функцыянальна-стылістычных адценняў (ад прастамоўя да высокай кніжнай лексікі і фразеалогіі), амаль усе сродкі граматыкі і найперш — вялікую разнастайнасць сінтаксічных канструкцый, тыпаў сказаў. У залежнасці ад аб'екта апісання мастацкае пісьмовае (як і вуснае) маўленне можа ўключаць пазалітаратурныя моўныя сродкі, неалагізмы, аказіяналізмы і інш. Аднак для яго не ўласцівы стандартныя, стэрэатыпныя формулы, шаблонныя словаспалучэнні, што ўласцівы афіцыйна-дзелавому стылю. Навуковыя ж тэксты вылучаюцца тэрміналагічнай лексікай, разгорнутымі структурамі складаных сказаў, падкрэсленай лагічнасцю выкладу думкі.

Вусная і пісьмовая формы рэалізацыі літаратурнай мовы супрацьпастаўлены адна адной і разам з тым

узаемазвязаны: паміж тыповымі сродкамі вуснага і пісьмовага маўлення няма рэзкіх межаў. Вусная форма маўлення можа рэалізавацца ў пісьмовай, калі адсутнічае непасрэдны кантакт паміж субяседнікамі (праз пісьмы); як адлюстраванне вуснага маўлення на пісьме ўспрымаецца маўленне персанажаў мастацкіх твораў, стылізацыя пад вусныя расказы (апавяданні К. Чорнага «Папоўскі вялікдзень», Я. Коласа «Паўлюковы думкі» і інш.). Добра ілюструе адрозненні ў структуры пісьмовага і вуснага маўлення, узаемапранікненне іх элементаў мова тэлевізійных перадач. Параўнанне пісьмовых тэкстаў перадач з рэальным вяшчаннем паказвае, што лексіка-фразеалагічныя адрозненні ў пісьмовых і вусных тэкстах нязначныя, аднак у сінтаксічных адносінах вусны тэкст значна трансфармуецца: у ім замяняюцца падпарадкавальныя канструкцыі, мяняецца парадак слоў, павялічваецца колькасць пабочных, устаўных канструкцый і г. д.

У розныя перыяды гісторыі мовы існуюць розныя адрозненні паміж пісьмовым і вусным маўленнем. Для тых моў, якія не маюць пісьменства, вуснае маўленне — адзіная форма іх існавання.

*Літ.:* Абабурка М. В. Беларускае слова і яго вывучэнне. Мн., 1986; Каўрус А. А. Культура слова. Мн., 1983; Костомаров В. Г. О разграничении терминов «устный» и «разговорный», «письменный» и «книжный» // Проблемы современной филологии: Сб. статей к 70-летию акад. В. В. Виноградова. М., 1965; Цікоцкі М. Я. Сугучнасць слоў жывых... Мн., 1981.

*Т. І. Тамашэвіч.*

## ВЫГОННАЯ ЛІЛІЯ ЦІХАНАЎНА



Беларускі мовазнавец Л. Ц. Выгонная нарадзілася 3 верасня 1942 г. ў г. Мары (Туркменія) у сям'і служачых. Пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта працуе ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі. У 1969 г. абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Палеская земляробчая лексіка (тыпалагічная і арэальная дыферэнцыяцыя)», а ў 1992 г.— доктарскую на тэму «Беларуская суперсегментная фанетыка».

Л. Ц. Выгонная апублікавала каля 100 навуковых прац, прысвечаных пытанням беларускай фанетыкі і лексікалогіі. Яна з'яўляецца сааўтарам калектыўных манаграфій «Лексіка Палесся ў прасторы і часе» (1971), «Галосныя беларускай мовы» (1975), «Фанетыка слова ў беларускай мове» (1983), «Фанетыка беларускай літаратурнай мовы» (1989), а таксама хрэстаматыі «Вусная беларуская мова» (1990).

Яе манаграфія «Інтанацыя. Націск. Арфаэпія» (1991) — першая ў беларускім мовазнаўстве грунтоўная комплексная праца, прысвечаная даследаванню праблем суперсегментнай фанетыкі. Абапіраючыся на айчынныя і замежныя даследаванні, Л. Ц. Выгонная на беларускім матэрыяле аналізуе праблему суадносін прасодыі і інтанацыі, вызначае функцыі інтанацыі і асаблівасці інтанацыйнай транскрыпцыі. Дэталёва разглядаюцца асноўныя кампаненты інтанацыі: мелодыка, інтэнсіўнасць, працягласць гучання моўных адзінак, паўзацыя, тэмп і тэмбр. Высвятляецца спецыфіка праяўлення гэтых параметраў у беларускім маўленні.

Значнай трэба прызнаць распрацоўку пытання аб ролі аднаго з найгалоўнейшых параметраў вуснага маўлення — параметра часу. Вывад аб тым, што для характарыстыкі беларускага маўлення часавы параметр стаіць па значнасці на першым месцы — новы і прынцыпова важны, бо дазваляе лепш зразумець спецыфіку беларускай інтанацыі.

Гэта манаграфія абагульняе эксперыментальныя звесткі, у ёй моўныя факты і з'явы інтэрпрэтуюцца ў трохмернай прасторы інтанацыйна-акцэнталагічна-арфаэпічных суадносін.

Л. Ц. Выгонная апублікавала таксама шэраг прац практычнага і навукова-папулярнага характару: «Ад гука да літары» (навук. папул. брашура, 1991), артыкулы ў розных часопісах і зборніках серыі «Бібліятэка настаўніка беларускай мовы і літаратуры». Вялікую даследчую работу яна зрабіла па «Агульнаславянскім лінгвістычным атласе». Даклады Л. Ц. Выгоннай па пытаннях фанетыкі і фаналогіі беларускай мовы атрымалі высокую ацэнку на міжнародных, усесаюзных і рэспубліканскіх канферэнцыях і сімпозіумах.

*Тв.:* Полесская земледельческая терминология // Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. М., 1968; Фонетические особенности русской речи в Белоруссии // Русский язык в Белоруссии. Мн., 1985; Арфаэпія і правапіс // Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі. Мн., 1987; Зычныя гукі і літары для іх абазначэння // Бел. мова і літаратура ў школе. 1989. № 8; Фанетыка ў пытаннях і адказах. Тамсама. 1989. № 9; Да спецыфікі мовы радыё // Бел. лінгв. Мн., 1990. Вып. 37; Пуржыць, паўзе мяцеліца...: Гутарка пра вытокі «зімовых» словаў // Роднае слова. 1992. № 2; Общеславянский лингвистический атлас (у сааўт.) // Сер. фонетико-грамматическая. Вып. 2б. Варшава; Краков. 1990. *В. П. Русак.*

## ВЫКЛІЧНІКІ

Выклічнікі — нязменныя словы, якія выражаюць розныя пачуцці і валявыя пабуджэнні таго, хто гаворыць. Вядомы даследчык рускіх выклічнікаў А. І. Германовіч назваў такія словы «найкарацейшым спосабам моўнай рэакцыі» на паведамленне субяседніка ці на з'явы і падзеі навакольнай рэчаіснасці.

Выклічнікі не маюць намінатыўнага (прадметнага) значэння, яны — толькі знакі, якія служаць для выражэння эмацыянальна-валявых рэакцый асобы. Сэнс гэтых знакаў рэалізуецца толькі ў шырокім кантэксце, часта з дапамогай інтанацыі, мімікі, жэстаў (а ў пісьмовым тэксце — адпаведнымі рэмаркамі ў дыялогах). Адзін і той жа выклічнік нярэдка можа — у розных тэкстах — абазначаць здагадку, здзіўленне, пагрозу, знявагу, сумненне, боль, страх, жаль, захапленне і г. д. Напрыклад: ***Ох,** арліцы добра лётаць сцежкамі такімі!* (Я. Купала); ***Ох,** і трэба ж было ў такі дождж ісці* (М. Лынькоў); ***Ох ты,** блазнота!* (Я. Колас); **Ох,** *як пасвіць неахвота!* (Я. Колас).

Такі характар выклічнікаў прадвызначае іх ролю ў тэксце: яны выступаюць або як нечлянімыя словы-сказы (з'яўляючыся эквівалентам выказвання), або — уключаючыся ў склад сказа — займаюць у ім ізаляваную пазіцыю, не з'яўляюцца членамі сказа і звычайна не ўступаюць у сувязь з іншымі словамі. І толькі калі выклічнікі пераходзяць у разрад іншых часцін мовы, яны ўступаюць у сувязь са словамі ў сказе і атрымліваюць здольнасць выконваць ролю галоўных або даданых членаў сказа. Напрыклад: *Грымнула магутнае* ***«ура!»*** — дзейнік; *Там рыба —* ***ого-го!*** (Я. Маўр) — выказнік; *Маці стаяла, слухала, ці не пачуе ў лесе знаёмае* ***«но!»*** (Я. Колас) — дапаўненне.

Калі выклічнік выконвае ў сказе ролю выказніка, тады ён набывае некаторыя рысы, уласцівыя дзеяслову: дзеяслоўнае кіраванне і здольнасць утвараць асобныя формы загаднага

ладу, параўн.: *А ну вас!* (П. Броўка); ***на табе!, марш ад машыны!, наце вам!*** і пад. Выклічнікі ў складаназалежным сказе могуць выконваць ролю дададных азначальных, выніковых ці іншых частак: *Слон такі вялізны, што* ***у-у-у!*** («Вясёлка»); *І добра, што вы не прыйшлі на той момант, а то* ***ай-ай-ай!*** (Э. Самуйлёнак).

Паколькі выклічнікі — словы нязменныя, то ніякіх формаўтваральных ці словаўтваральных афіксаў у складзе выклічнікаў вылучыць, як правіла, нельга. Яны не дзеляцца на марфемы. У залежнасці ад таго, што выражаюць выклічнікі, яны падзяляюцца на эмацыянальныя і імператыўныя. Эмацыянальныя выклічнікі выражаюць розныя пачуцці або перадаюць інтэлектуальна-эмацыянальны стан чалавека: а) радасныя пачуцці або станоўчыя адносіны да фактаў рэчаіснасці — адабрэнне, радасць, захапленне, задаволенасць і г. д.: *«**О,** з прыемнасцю»,— весела адгукнуліся рабочыя* (В. Зуб); ***Ах,*** *які грыбок харошы!* (А. Александровіч); б) адмоўныя адносіны да рэчаіснасці — незадавальненне, шкадаванне, папрок, пратэст, гнеў, іронію і г. д.: ***Ой,*** *раны смыляць!* (Р. Барадулін); ***Ай-яй,*** *як нядобра* (І. Шамякін); в) здзіўленне, недаўменне, сумненне, спалох і г. д.: ***О-о-о!..*** *Дзіўна! Адчынен кабінет* (Э. Самуйлёнак). Большасць эмацыянальных выклічнікаў (такія, як *о, а, ой, эх, ах*) мае шырокае дыфузнае значэнне. Гэта паслужыла асновай для далейшага «выветрывання» семантыкі такіх выклічнікаў. У мове народных песень яны сталі традыцыйным зачынам, дэсемантызаваным фальклорным элементам, параўнайце: ***Ой,*** *пайду я лугам, лугам...;* ***Ой,*** *сарву я з ружы кветку...;* ***Ой*** *ты, вербанька кудравая...;* ***Гэй,*** *засвяціце, зорачкі, ясныя вячорачкі...* (народныя песні ў запісе Р. Шырмы). У разрад эмацыянальных уключаюцца і выклічнікі, якія выражаюць эмацыянальную ацэнку стану *(чорт! квіта!)*, эмацыянальна-валявыя адносіны да паведамлення субяседніка *(ну, вось яшчэ* і інш.). Да гэтай жа групы прымыкаюць і т. зв. этыкетныя выклічнікі *(прабачце, дзякуй, дабранач, калі ласка, дзень добры* і інш.), шматлікія выклічнікі-лаянкі *(чорт вазьмі!, якога чорта)*. Некаторыя эмацыянальныя выклічнікі маюць элементы імператыўнасці. Так, слова *шабаш* можа азначаць заклік да заканчэння працы, *ну* — пабуджэнне да пачатку гаворкі ці дзеяння. Гэтыя выклічнікі знаходзяцца як бы на мяжы паміж эмацыянальнымі і імператыўнымі.

Імператыўныя (пабуджальныя) выклічнікі — гэта вялікі клас слоў, якія выражаюць валявыя пабуджэнні. Сюды адносяцца: а) выклічнікі, якія выражаюць заклік-зварот (выклічнікі-заклікі): *гэй, ау, алё, гвалт, ратуйце;* ***Гэй,*** *Агей! А ты куды?* (А. Куляшоў); ***Але!*** *Пісьменнік! Дзе вы падзеліся?* (К. Крапіва); б) выклічнікі, якія выражаюць патрабаванне захоўваць цішыню, прыпыніць размову ці якое-небудзь дзеянне: *цсс!, ша!, цыц!;* ***«Тсс!»*** *— шапнуў Віктар і прытрымаў рукою Мірона* (Я. Маўр); в) выклічнікі, якія выражаюць загад, каманду: *майна, віра, гайда, марш, стоп, плі,* вайсковае *ёсць;* г) выклічнікі-выгукі, якія дапамагаюць рэгуляваць намаганні пры калектыўнай працы: *ух!, раз!, яшчэ раз!;* д) выклічнікі, якімі заспакойваюць ці закалыхваюць дзяцей: *агу, баю-баю, бай-бай, люлі-люлі;* е) выклічнікі, якімі ўздзейнічаюць на паводзіны жывёл, падзываюць ці адганяюць свойскіх жывёл і птушак: *но, тпру, кусі, кыш, кось-кось* і шмат іншых. Імператыўныя выклічнікі не пазбаўлены эмацыянальнасці. Такім чынам, 2 асноўныя семантычныя класы выклічнікаў цесна звязаны між сабою.

Па структуры і ў адпаведнасці з паходжаннем выклічнікі падзяляюцца на 2 групы: невытворныя і вытворныя.

Невытворныя выклічнікі — гэта словы, якія ўтварыліся надзвычай даўно. Яны не суадносяцца з іншымі часцінамі мовы, складаюцца з адной марфемы, якая прадстаўлена або адной фанемай — толькі галоснай *(а, о, у, э, і)* ці зычнай *(мм!, шш!)* або дзвюма — некалькімі зычнымі *(гм, хм, цсс)* або спалучэннямі галосных і зычных *(ай, ой, эй, ах, ох, эх, ух, ого, угу, но, на, фі, уф, фу, фэ* і інш.). Гукавыя комплексы, з якіх складаецца каранёвая марфема такіх выклічнікаў, могуць рэдуплікавацца: *ай-ай-ай* (у пісьмовай форме можа набываць выгляд *а-я-яй*), *ой-ой-ой (о-ё-ёй), ох-ох-ох (о-хо-хо), ого-го* і г. д.

Вытворныя выклічнікі — гэта словы, утвораныя ад іншых паўназначных слоў, якія вымаўляюцца з яркай эмацыянальнай афарбоўкай або з моцнай экспрэсіяй. Сюды адносяцца: а) адназоўнікавыя *(бяда! чорт!);* б) аддзеяслоўныя *(здароў!, прабач!, дзякую!)*. Такія словы могуць падвяргацца дэфармацыі і скарачэнню гукавога складу. Так, з *дзякую* атрымалася *дзякуй,* з *косю-косю* (паўтарэння клічнай формы — ласкавага звароту да каня — *кося*) атрымалася *кось-кось* і г. д.

Словаўтварэнне выклічнікаў у сучаснай мове пераважна абмяжоўваецца працэсам пераходу іншых часцін мовы ў выклічнікі, такім чынам атрымліваюцца вытворныя выклічнікі. Ідзе актыўны працэс уцягвання ў сферу выклічнікаў не толькі назоўнікаў ці дзеясловаў *(божа!, бяда!, людцы!, ратуйце!)*, але і цэлых спалучэнняў *(яшчэ што!, вось яшчэ што!, вось яно што!, вось табе і на!)*. Асобныя выклічнікі могуць далучаць суфіксы з ласкальным значэннем *(тпрусенькі, люленькі)*. Ад выклічнікаў утвараюцца дзеясловы *(ахаць, ойкаць, развойкацца, бахаць, ахнуць)*. Выклічнікі могуць ператварацца ў часціцы, пры гэтым да іх нярэдка далучаецца ўзмацняльная часціца *і: Камароўка...* ***Ох!*** *і Камароўка!* (П. Панчанка); *Дайней нічога не ведала, а цяпер* ***ах*** *як ведаю!..* (Я. Купала).

Асобныя выклічнікі запазычаны з іншых моў *(алё* — з французскай, *брава* — з італьянскай, *біс* — з лацінскай і інш.).

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Сяцко П. У. Выклічнік // Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія. Мн., 1975; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. *П. П. Шуба.*

## ВЫСЛОЎІ

Выслоўе — глыбокая па змесце думка, выказаная невялікай колькасцю слоў. Такое абазначэнне дае гэтаму выразу тлумачальны слоўнік. Але ж глыбокая і лаканічна выказаная думка — гэта і афарызм, і прыказка, і фразеалагізм. Як жа ў такім выпадку суадносяцца гэтыя тэрміны і паняцці?

Можна, відаць, сказаць так: выслоўе — агульная назва для ўсіх відаў трапных выказванняў, якія: па-першае, нясуць глыбокую, жыццёва важную, лагічна закончаную думку — суджэнне; па-другое, перадаюць яе коратка, выразна, трапна; па-трэцяе, уваходзяць у ідыяматыку мовы (побач з лексікай і фразеалогіяй) і таму без змен узнаўляюцца ў маўленні як гатовыя адзінкі. Калі пагадзіцца з такой характарыстыкай выслоўяў, то да іх мы аднясем афарызмы, максімы, апафегмы, прыказкі, сентэнцыі, а таксама крылатыя словы ў форме сказаў. Не трапяць у разрад выслоўя «несказы»: прымаўкі, устойлівыя параўнанні, частка крылатых слоў, фразеалагізмы і іншыя адзінкі беларускай ідыяматыкі, якія хоць і вызначаюцца трапнасцю, вобразнасцю, лаканізмам, але не выражаюць закончанай думкі. Не будуць лічыцца выслоўямі — з-за вялікага, большага, чым сказ, аб'ёму — байкі, сентэнцыі — вершы, вялікія цытаты і г. д.

Афарызмам, прыказкам і крылатым словам у гэтай энцыклапедыі прысвечаны асобныя артыкулы. Тут мы спынімся на такіх відах выслоўяў, як сентэнцыі, максімы і апафегмы. Сентэнцыя (ад лацінскага sententia думка, суджэнне) — выслоўе павучальна-маральнага характару, напрыклад: *Рупная пчала // Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак* (М. Багдановіч); *Хто не спытаў хоць раз трывогі // Жыццю не ведае цаны* (А. Звонак); *Дурань таму і бліскучыць*

*здалёк, што знаходзіцца не на сваім месцы* (К. Крапіва). Глыбокія назіранні, маральныя абагульненні і нават своеасаблівыя правілы жыцця выказаны ў наступных сентэнцыях: *Расказваць што-небудзь без асаблівай мэты нават сваім знаёмым можа толькі пусты балбатун* (Дз. І. Пісараў); *Трэба імкнуцца да таго, каб кожны бачыў і ведаў больш, чым бачыў і ведаў яго бацька і дзед* (А. П. Чэхаў); *Захоўваючы сваю годнасць, трэба ўмець саступаць адзін аднаму* (В. А. Сухамлінскі); *Не трэба пераацэньваць прыгажосць: не падмацаваная іншымі добрымі якасцямі, яна можа прынесці шкоду* (Я. Корчак).

Выдатным стваральнікам сентэнцый як асобных літаратурных твораў быў на Беларусі Ян Ліцыній Намыслоўскі. З 1585 г. ён працаваў выкладчыкам школы ў Еўі. Намыслоўскі — адзін з пачынальнікаў свецкай адукацыі на Беларусі, аўтар адзінага ў сваім родзе зборніка маралістычных выказванняў-сентэнцый «Павучанні для ўсеагульнага карыстання ў жыцці» (1589). Частку павучанняў ён напісаў сам, частку сабраў з іншых літаратурных крыніц. Даследчыкі лічаць, што гэты зборнік быў першым беларускім падручнікам жывых замежных моў, таму што ў ім чаргаваліся аналагічныя па змесце выказванні на лацінскай, польскай і нямецкай мовах. Усяго зборнік Яна Намыслоўскага змяшчае 225 сентэнцый. Вось некаторыя з іх: *37. Высакародны розум. Не, не багацце дае высакароднаму розуму сілу. Розум наш — сам найкаштоўнейшы ў свеце са скарбаў зямных. 51. Язык. Раніць Бязлітасны меч цела жывое не гэтак, Як непавіннага — ядам смяртэльным злачынны язык. 55. Час. Каб выпадковым не стаў той час, калі справу пачнеш ты, Ведай: для кожнай са спраў тэрмін дакладны свой ёсць. 103. Вайна. Любы бог Марс не спазнаўшым баёў; той жа, хто горыч Зведаў аднойчы вайны, той не прыхільнік яго. 169. Старыя. Ты са старым і размовы ахвотна вядзі і старанна. Хто разумнейшы за іх? Мудрасць іх словы нясуць.*

А вось гэтая сентэнцыя Яна Намыслоўскага ў склад выслоўяў не ўвойдзе толькі па той прычыне (паводле нашага азначэння выслоўяў), што яна мае значны аб'ём: *202. Мноства кніг. Кніг калі ты назбіраў найвялікшае мноства, не думай, // Што заслужыў ты пачэснае імя вучонага мужа. // Многае зведаць ў жыцці трэба і кніжак карыснасць спазнаць // Тое сваім назаўжды ты маеш падставы лічыць несумненна, // Што ты глыбока і цвёрда засвоіў і скарыстаеш для справы.*

Да сентэнцый блізкія і **м а к с і м ы** (ад лацінскага maxima асноўнае правіла, прынцып) — выслоўі, якія выражаюць лагічныя або этычныя прынцыпы, пэўныя нормы паводзін чалавека, напрыклад: *Дарма пра песню пытацца ў глухога. // Дарма пра сонца пытацца ў сляпога* (М. Танк); *Тым, хто спрабуе паднавіць мінулае, У будучым няма чаго рабіць* (С. Законнікаў); *Усе перамогі пачынаюцца з перамог над самім сабой* (Л. М. Лявонаў); *Руплівасць — маці поспеху* (М. Сервантэс); *Слова, дум ніхто не звяжа* (Я. Купала); *Моцныя — заўсёды добрыя* (М. Горкі); *Вызваленне сябе ад працы ёсць злачынства* (Л. М. Талстой); *Хто маўчаць не ўмее, той і гаварыць не здольны* (Сенека Малодшы).




**Том «Выслоўі» з серыі «Беларуская народная творчасць» (вокладка). 1979.**

Маральныя і іншыя парады, выказаныя ў форме звароту да субяседніка, называюць **а п а ф е г м а м і**, або апафтэгмамі (ад грэчаскага apophtegma тое, што выказана проста, непасрэдна, адкрыта). Напрыклад: *Гуслям, княжа, не пішуць законаў* (Я. Купала); *Не верце, што хоць адна дарога ў жыццё лёгкая* (І. Шамякін); *Карыстайцеся, але не злоўжывайце — такое правіла мудрасці* (Ф. Вальтэр); *Давайце жыць так, каб нават трунар аплакваў ваша скананне* (М. Твэн); *Не чапай ліха, пакуль спіць ціха* (прыказка).

Чытач, вядома, заўважыў, што прыклады апафегмаў заканчваюцца не аўтарскім выслоўем, а прыказкай. Прыказкі ж, як было сказана вышэй,— асобны від выслоўяў. Навошта тады яны аднесены і да апафегмаў? Справа ў тым, што падзел выслоўяў на шэсць відаў (афарызмы, максімы, апафегмы, прыказкі, сентэнцыі, крылатыя словы-сказы) з'яўляецца адносным, не строга лагічным. Нават самі тэрміны, якімі мы абазначылі віды выслоўяў, «вінаватыя» ў гэтым, бо яны з'явіліся ў беларускай мове ў розныя часы і з розных моў (акрамя, вядома, беларускіх тэрмінаў). Таму адно і тое ж выслоўе можна часам разглядаць і як афарызм, і як сентэнцыю, і як крылатае слова (напрыклад, выраз К. Крапівы *Лес не сякуць языкамі*).

Ёсць і іншы погляд на паняцце «выслоўе». Ён знайшоў адбітак у фальклорным зборніку «Выслоўі» (1979, з акадэмічнай серыі «Беларуская народная творчасць»). Склаў яго вядомы беларускі фалькларыст і этнограф М. Я. Грынблат. Ва ўступным артыкуле да зборніка ён пісаў: «Выслоўі — гэта тэрмін, які мы выбралі ўмоўна для абазначэння той незлічонай колькасці кароткіх вусных твораў і ўстойлівых словазлучэнняў, што не з'яўляюцца ні прыказкамі, ні прымаўкамі, ні фразеалагізмамі ў вузкім сэнсе, хоць нярэдка і падобныя да іх, асабліва да прымавак. Гэта разнастайныя трапныя і дасціпныя выразы, часцей гумарыстычнага характару, якія пазбаўлены элементаў афарыстычнасці і павучальнасці, уласцівых прыказкам, а толькі нібы жартам, мімаходзь прыкмячаюць і падкрэсліваюць тую або іншую з'яву, дробную бытавую падзею, асобную рысу ў характары чалавека, у паводзінах жывёлы, у стане прыроды. Да выслоўяў мы далучаем таксама такія характэрныя ўзоры народнай словатворчасці, як скорагаворкі, застольныя жарты, прыгаворкі і тосты, вітанні, зычэнні, ветлівыя і ласкавыя звароты, прысяганні і бажба, праклёны і абзыванні-ганьбаванні, нават калі яны выражаны адным словам, і сапраўды неабсяжны матэрыял народных паэтычных параўнанняў».

Вось некалькі прыкладаў з гэтай кнігі: *За адным заседам вячэра з абедам. Ні то, ні сё, ні ў смак, ні ў знак. Зазвінела як у новым цэбры. Каб цябе пабілі мае слёзы! Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы. Няма лепшай рэчы, як свіныя плечы. Дзяды і дзядзькі на дзядзінцы дзялілі дзялянкі.* І нават: *Хадорка, ці ты прадзеш? — Праду.— А дзе верацяно? — Віры яго ведаюць*!

Адзначыўшы, што выслоўі складаюць асобны велізарны пласт народнай словатворчай культуры, М. Я. Грынблат слушна заўважае, што, на жаль, гэты пласт яшчэ слаба ўзараны збіральнікамі і даследчыкамі беларускай вуснапаэтычнай творчасці.

Магчыма, з цягам часу філолагі зробяць поўную і несупярэчлівую класіфікацыю выслоўяў (і ўсёй моўнай ідыяматыкі ў цэлым), а пакуль задаволімся тым, што мы здольныя дастаткова поўна апісаць розныя віды выслоўяў — сапраўднага багацця нацыянальнай беларускай мовы.

*Літ.*: Выслоўі / Склад. М. Я. Грынблат. Мн., 1979; Я н к о ў с к і Ф. М. Крылатыя словы і афарызмы. Мн., 1960; Я г о ж. Само слова гаворыць. Мн., 1986; М и х н е в и ч А. Е. Идиоматичность речи // Кривицкий А. А., Михневич А. Е., Подлужный А. І. Белорусский язык для небелорусов. 2 изд. Мн., 1978.

*А. Я. Міхневіч.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Слова — радасць, слова — чары,*
*Вобраз вечна юных вёсен,*
*Ёсць ты ўсюды: ў сонцы, ў хмары.*
*Ты глядзіш праз неба просінь.*
*Лашчыш слух мой, слова-ззянне,*
*Атуляеш сэрца ласкай,*
*Ноч і вечар, дзень, світанне*
*Абняло ты, слова-краска.*

Якуб Колас



**Г** — *чацвёртая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Г («глаголь»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай Г («гама»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала фрыкатыўныя зычныя гукі* г, г', *пры аглушэнні* — х (вага, гимнъ — *«г'імн»*, стогъ — *«стог»*), *а ў складзе дыграфа* кг — *выбухны гук* г *у запазычаных словах* (кгмахъ, моркгъ). *Мела таксама лічбавае значэнне «тры», з дадатковымі значкамі ≠ Г — 3 000, (г)— 30 000, (г)—300 000, (г)— 3 000 000. У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скарапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія дапамагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрознівацца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумныя звонкія фрыкатыўныя заднеязычныя гукі* г, г' (гара, герб — *«г'эрб»*), *а перад глухімі зычнымі і на канцы слоў — парны да* г *па звонкасці і глухасці гук* х (лёгкі — *«л'охк'і»*, мурог — *«мурох»*). *У некаторых запазычаных словах абазначае выбухныя* г, г' (ганак, гірса). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную формы. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ГПА, ГЭС), як умоўнае скарачэнне слоў год, горад. Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «чацвёрты» (група «Г»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (квадрат № 4г).* А. М. Булыка.

## ГАЛАШЭННІ

Галашэнне — адзін з найбольш старажытных фальклорных жанраў, пашыраны ва ўсіх народаў свету; своеасаблівая традыцыйная форма выказвання чалавечага гора, выражаная ў плачы з імправізаваным прыгаворам, сваім зместам звязаная найчасцей са смерцю ці паміланнем нябожчыка, радзей — з іншымі жыццёвымі здарэннямі: выданнем замуж, выпраўленнем у салдаты, стыхійнымі няшчасцямі. Словы ў галашэннях нараджаюцца як натуральны водгук на страту блізкага. Яшчэ, відаць, на ранніх этапах першабытнаабшчыннага ладу яны набылі рытуальны характар, паколькі выражалі страх перад таямнічасцю смерці, перад верай ва ўсемагутнасць мёртвых. Галашэнне павінна было ўлагодзіць нябожчыка, каб забяспечыць яго спрыянне ў зямных справах. Слова разам з іншымі абрадавымі дзеяннямі набывала такім чынам магічную сілу. Адначасова ў паэтычнай мове галашэнняў, як і ва ўсёй вусна-паэтычнай творчасці народа, выразна фарміраваўся і эстэтычны бок, што дазволіла галашэнням як узорам славеснага мастацтва захавацца да нашых дзён.

Узнікненне твораў гэтага жанру некаторыя вучоныя выводзяць з воклічаў пры перажыванні смерці дарагога чалавека, якія ператвараліся ў выслоўі, далучалі да сябе разнастайныя моўна-паэтычныя сродкі, затым выстройваліся ў рытмізаваную сістэму. Галашэнні заснаваны на прыроднай уласцівасці чалавека рэагаваць на адыход з жыцця блізкіх яму людзей скрухаю, плачам уголас, з рыданнямі і стогнамі. Слёзы, крык, паток слоў, звернутых да нябожчыка, давалі эмацыянальную разрадку арганізму, і душэўны боль знаходзіў сваё выйсце. Галашэнні бытуюць толькі ў вуснай форме і гучаць амаль выключна з вуснаў жанчын. Яны змяшчаюць як лексіку будзённа-гутарковую (напрыклад, пры перадачы канкрэтных абставін трагедыі або калі вядзецца разгорнутае апавяданне пра цяжкае жыццё нябожчыка), так і высокапаэтычную, пачэрпнутую з лепшых узораў народнапесеннай лірыкі (пры ўзвелічэнні нябожчыка, пры выказванні гора, якое напаткала з яго смерцю дом). Пры ўсім, на першы погляд, падабенстве галашэнняў, што ўзнікае з-за выкарыстання ў іх ідэнтычных вобразаў і трафарэтных сінтаксічных блокаў, амаль кожнае дзякуючы імправізацыі мае непаўторныя матывы, дэталі. Зразумела, жалобны рэчытатыў плакальшчыц, як і вусная мова наогул, выстройваецца на мясцовай гаворцы.

Кампазіцыйна галашэнні, як правіла, пачынаюцца са звароту да памерлых, якія называюцца па імені (*Антонька, Ляксейка, Федырка, Любачка, Гэлечка*) ці па ступені сваяцтва (*татачка, матулька, спадарочак, сыночак, дачушачка* і г. д.), пры гэтым абавязкова ў памяншальна-ласкальнай форме з адпаведнай суфіксацыяй. Наогул ні ў якім іншым фальклорным жанры (хіба што ў калыханках) чалавеку не адрасавана столькі пяшчоты і любові, як у галашэннях. Чалавечы вобраз набываў яшчэ большую мастацкую выразнасць, калі яго імя ці паняцце роднасці замянялася вобразам-сімвалам: *сівая лесавая кукулічка, шэрая зязюлька, галубачка шызакрылая, лябёдачка белая, жаваронaчак, ластаўка залётная, саколік, рыбачка, пчолачка адлётная, ягадачка мая недаспелая, вішанька красная, залаценькі каласок, яблычка, дубанька зялёны, кучаравы, месячык.* Праз паэтычную ўмоўнасць сімвала высвечваўся сілуэт, характар памерлага. З прыроднага свету адбіраліся тыя вобразы, якія здольны былі ўвасобіць светлы вобраз чалавека, яго чысціню, яго колішнюю сілу (*дубанька зялёны, кучаравы*) ці бяскрыўднасць, безабароннасць (*ляжыш, як быліначка, зламана*). Звяртаючыся да бацькі ці да маці, сірата малявала іх




**Том «Пахаванні, памінкі, галашэнні» з серыі «Беларуская народная творчасць» (вокладка). 1986.**

вобраз таксама рэальнымі, жывымі фарбамі, быццам з натуры, называючы *работнічкам, гаротнічкам; надзёжай вернай, жаласніцай; парадніцай, праваднічай шчырай.* Зваротак часта аздабляўся найбольш прыдатным ласкавым эпітэтам: *міленькая; родненькі; залаценькая; любенькая; дробненькае.* У асобных выпадках да звароткі плакальшчыцаю падбіраўся паралельны, абавязкова рыфмаваны, вобраз: *мамулечка — зязюлечка; татка — вінаградка; сыночак — галубочак; дачушачка—малютачка; дачушка—дарагуська.* Нярэдка выпадкова знойдзены асацыятыўны вобраз станавіўся штуршком для разгортвання цэлай тэмы, якая вар'іравалася ў прадвызначаным тым вобразам рэчышчы. Іншасказальнасць як мастацкі сродак яшчэ болей узмацняе сталы матыў недарэчнасці, трагічнасці смерці: *Яварэ, хто цябе падсёк, падрубаў? У каго такая гостра сякера була, што магла цябе ссекці?; Ягадачка недаспелая, чым жа цябе здзьмухнула — ці буйным ветрыкам, ці пташачкі склявалі?; Рыбанька залаценькая, як пакупалася, так і не паднялася.*

Не толькі ў зваротах да мёртвага, але і ва ўсім паэтычным змесце галашэнняў выразна гучыць народная сімволіка. У разгорнутым малюнку вобразы-сімвалы ствараюць алегарычную карціну сямейнага гора: *Закацілася яснае сонейка, што не грэець нас, горкіх сіраціначак. Веюць на нас ветры сцюдзёныя: куды ветрачкі падуюць — туды мы пацягнемся.* Сімволіка была спараджэннем асацыятыўнага мыслення чалавека і ў спалучэнні з паэтычным дарам, пільнай назіральнасцю знаходзіла выхад у народнай творчасці. Фантазія, падмацаваная верай у несмяротнасць душы, малявала вобраз нябожчыка то ў выглядзе нябесных свяціл (*Прыдзі хоць позненька, хоць раненька, узыдзі хоць месячкам, паявіся хоць зорачкай*), то дрэва (*Бярозка, бярозанька, чаму ў татачку не пераменішся, сваёй дачкі да й не спытаеш?; Бабачка, грушачка мая старэнькая*), часцей за ўсё — у арнітаморфных вобразах (*З якімі птушачкамі ў вырай паляціш? З гусачкамі? З буслечкамі? З салаўямі?*).

З асаблівай сілаю ўздымаліся галашэнні на хаўтурах, калі ў хату, дзе ляжаў нябожчык, прыносілі труну. Гэты апошні прытулак асацыіраваўся з роднай хатай, супастаўляўся з ёю і разам з тым супрацьпастаўляўся ёй: *дом — дамавіна.* Сэнсавы аналаг адначасова выступае ў галашэннях і як сэнсавы антыпод: *Збудавалі ж табе новую хатачку харошанькую, толькі цесненькую, нявідненькую ды халодненькую... без сенечак, без акошачак, нікога табе не відна будзе; Тут жа ветрыкі не завеюць, птушачкі не залятаюць.* Просячы майстроў зрабіць дамавіну для бацькі, дачка наказвала: *Зрабіце татку дамочак вясёленькі, каб ён быў раскошненькі, прасячыце аконечка, каб ён адтуль мог глядзець на мяне.* Бедавала і маці па дзіцяці, якому ў яго новай, зробленай за адзін дзянёчак хатачцы без вугольчыкаў *не можна будзе ўстаць і з лялькай пагуляць.* Народная сімволіка прысутнічае ў галашэннях да самага апошняга моманту, калі цела аддаецца зямлі, пакідае гэты свет: *Замкнуць цябе трыма замочкамі. Першы замочак — грабовыя дошчачкі, другі замочак — жоўты пясочак, трэці замочак — травачка-муравачка* (гэтыя вобразы распаўсюджаны ў вясельных сірочых песнях).

Традыцыйная паэтыка, што вырастала з народных песень, арганічна ўпляталася ў імправізаваны рэчытатыў. Паэтычныя вобразы галашэнняў, нягледзячы на сваю спецыфічнасць, маментальнасць стварэння, усё ж свядома ці падсвядома складаліся ў асноўным тымі ж моўнавыяўленчымі сродкамі, што і народная песня. Пры супастаўленні абодвух жанраў можна пераканацца, што галашэнні не проста знаходзяцца ў вобразнай залежнасці ад песень, але пэўным чынам адлюстроўваюць стан песеннага бытавання ў народзе. У тых мясцовасцях, дзе традыцыйная песня адышла на другі план пад уздзеяннем павеваў сучаснасці, а таксама ў тых асоб, якія заўсёды слаба валодалі майстэрствам спеваў, галашэнні, як правіла, зводзяцца да празаічнага (не па форме, а па зместу) пераказу, хоць зрэдку ў іх згадваюцца тыя ці іншыя паэтычныя вобразы.

Згодна з традыцыйным пахавальным абрадам, маладых нябожчыкаў апраналі як пад вянец, на рукі ўскладвалі, нібы на вяселлі, ручнікі, нават надзявалі шлюбныя пярсцёнкі, як спадзяванне, што на тым свеце шлюб адбудзецца. Менавіта таму пахаванне хлопцаў і дзяўчат на некаторых этапах выразна пераклікаецца з вясельным абрадам. У галашэннях пахаванне неаднойчы інтэрпрэтуецца як своеасаблівае вяселле: *Сыночак мой міленькі! Куда жа выражаешся? У якую дарожаньку? К якой жа дзеваньке едзеш у сваты? А твая ж вяселля не вясёлая. А твая свадзьба не прыятная; А брацішка, а мой родненькі, да тваё вяселейка да невясёлае: скрыпачкі не іграюць, дзевачкі не пяюць. Пішы лісточкі, пашлі пасслочкі да сваёй радзінкі, штоб збіралася на вяселлейка; да будзеш убіраць сваю радзінку, каторых свашачак, каторых сваточкамі; А дзе ж твае сваткі? Чаму ж я іх не бачу? Чаму ж яны такія нядобрыя? Бяруць доньку, не пытаюцца. А ты ідзеш, мяне не шкадуеш.*

Параўноўваючы запісы галашэнняў, зробленыя ў мінулым стагоддзі, з сучаснымі, можна заўважыць, як развіццё гэтага жанру ідзе па шляху вобразнага спрашчэння, што тлумачыцца звужэннем сферы бытавання традыцыйнай песні, аслабленнем мастацкага ўплыву на жалобныя імправізацыі. Цяпер куды больш часта гучаць матывы, узятыя з рэальнага жыцця, якія сваімі непрадказальнымі паваротамі раскрываюць драматызм падзей з дакументальнай праўдзівасцю. Такім чынам, сталая паэтычная форма і імправізацыя знаходзяцца ў пэўным балансе і кожная па-свойму вызначае ступень эмацыянальнага ўздзеяння галашэнняў.

Вялікі пачуццёвы зарад, трагічнасць, закладзеныя ў галашэннях, закраналі і мастакоў слова. Пісьменнікі і паэты пры апісанні жалобы ў сваіх творах выкарыстоўвалі гэты жанр — дзе пераводзячы плач у строга класічную паэтычную форму (Купала Я. «Адвечная песня»), дзе — стараючыся захаваць народную аснову рытмікі і вобразаў, але падводзячы пад уласны сюжэт (Гарэцкі М. «Панская сучка», «Памінкі»; Караткевіч У. «Каласы пад сярпом тваім»).

*Літ.:* Пахаванні. Памінкі. Галашэнні. Мн., 1986; Свенціцький І. Похоронні голосіння // Етнографічний збірник. Львів, 1912; Русские плачи (причитания). Л., 1937; Причитания. 2 изд. Л., 1960; Базанов В. О социально-эстетической природе причитаний // Русская литература. 1964. № 4.

*У. А. Васілевіч.*

## ГАРУН АЛЕСЬ

Беларускі паэт, празаік, драматург, публіцыст, дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху Алесь Гарун (Аляксандр Уладзіміравіч Прушынскі) нарадзіўся 11 сакавіка 1887 г. ў фальварку Новы Двор Мінскага павета (цяпер Мінскі раён) у беднай сям'і. Скончыў 3-е мінскае гарадское прыходскае вучылішча (1897), рамеснае вучылішча (1902). Працаваў ста-



ляром у розных майстэрнях і на мэблевай фабрыцы ў Мінску.

У 1904 г. стаў членам партыі эсэраў-максімалістаў. За антыўрадавую дзейнасць у 1907 г. арыштаваны ў Мінску. У ліпені 1908 г. Віленскай судовай палатай засуджаны на ссылку з пазбаўленнем усіх правоў і пажыццёвае пасяленне ў Сібіры. Ссылку адбываў у Кірэнскім павеце Іркуцкай губерні. З 1912 г. разам з Я. Лёсікам у Мельнічным выселку каля Кірэнска. У 1914 г. атрымаў права жыць ва ўсёй Сібіры. Працаваў вадалівам на Лене і Віціме. З 1915 г. на залатых капальнях у Бадайбо.

Летам 1917 г. пакінуў Сібір. Спыніўся ў Маскве, дзе стаў членам Цэнтральнагаа бюро Беларускай народнай грамады. У Мінск вярнуўся хворы на сухоты ў верасні 1917 г. У 1918 г. рэдагаваў газету «Беларускі шлях», браў удзел у дзейнасці беларускіх арганізацый. У 1920 г. цяжка захварэў. Па дарозе на курорт Закапанэ памёр 28 ліпеня 1920 г. ў Кракаве.

Вершы А. Гарун пісаў спачатку папольску, пасля па-беларуску. Паэма «Мае коляды», апублікаваная ў 1920 г. ў Вільні пад псеўданімам А. Сумны, датуецца 1905 г. Першы друкаваны верш — «Маці-Беларусі» («Наша ніва», 1907, 21 чэрвеня). Выдаў зборнікі паэзіі «Матчын дар» (Мн., 1918, факсімільнае выданне 1988), дзіцячых п'ес «Жывыя казкі» (1920). У 1991 г. выйшаў зборнік выбранага (паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка) «Сэрцам пачуты звон». Творы А. Гаруна вызначаюцца мастацкай дасканаласцю, спалучэннем філасофскай заглыбленасці з палымянай публіцыстычнасцю і тонкім лірызмам, творчым засваеннем фальклорных-традыцый.

Творчасць А. Гаруна, як і іншых аўтараў, што гуртаваліся вакол газеты «Наша ніва» як цэнтра беларускага адраджэння пачатку 20 ст., спрычынілася да фарміравання беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы. Засвоіўшы лад эмацыянальна-вобразнага мыслення беларускага народа, пісьменнік развіваў і замацоўваў вобразна-выяўленчыя магчымасці беларускага слова. Багатая і развітая нацыянальная мова — адно з асноўных палажэнняў светапогляднай канцэпцыі А. Гаруна-грамадзяніна, А. Гаруна — мастака-адраджэнца: *Ты, мой брат, каго зваць Беларусам, // Роднай мовы сваей не цурайся; // Як не зрокся яе пад прымусам, // Так і вольны цяпер не зракайся. // ...Дык шануй, Беларус, сваю мову — // Гэта скарб нам на вечныя годы; // За пашану радзімаму слову // Ушануюць нас брацця-народы!* («Ты, мой брат, каго зваць Беларусам...»).

У вершы «Браты! Дакуль мы будзем спаць?» А. Гарун, заклікаючы сваіх абыякавых, інертных, заспаных суайчыннікаў змагацца за лепшую долю роднага народа, «да працы ўзяцца што ёсць сілы», страсна, эмацыянальна-напружана выказаў сваю грамадзянскую пазіцыю, свае адносіны да роднай мовы як адвечнага скарбу народнага: *Божа мой! // Для краю гінуць — для братоў, // Збяднелых, цёмных і няшчасных, // Што мучацца вось ад вякоў, // Не маючы дзён жыцця ясных... / І гінуці для роднай мовы // Сваіх бацькоў і запрадзедаў,— // Браточак мой! ах, каб ты ведаў — // Страшэнна гэта рэч... гатовы // Хутчэй дык я на смерць лютую, // На вечны ў пекле цяжкі мукі — // Змяніць чым мову на чужую, // Здрадзіцелем чым быць унукаў!..* У развітай мове А. Гарун бачыў адзін з галоўных чыннікаў прызнання самастойнасці, цывілізаванасці нацыі. У адпаведнасці з агульнай канцэпцыяй нашаніўскага адраджэнства, ён лічыў самабытнае культурнае развіццё адной з абавязковых умоў гістарычнай самарэалізацыі народа. Услаўленне роднай мовы для паэта — адзін з дзейсных шляхоў сцвярджэння нацыянальнай і чалавечай годнасці беларуса, сродак абароны яго правоў: *Хвала табе! О, дарагая! // О, беларуска проста мова! // Што сон магільны прарываеш, // Нясеш нам знак на жыцце нова!* («Гімн роднай мове»).

Большая частка творчага лёсу А. Гаруна прыпадае на часы, калі пісьменнік знаходзіўся ў высылцы, быў адарваны ад жывога беларускамоўнага асяроддзя. Аднак, нягледзячы на гэта, мова яго твораў вызначаецца лексічным і фразеалагічным багаццем, стылёвай і інтанацыйнай разнастайнасцю. Адной з галоўных крыніц мовы пісьменніка былі жывыя народныя гаворкі, фальклор. Этнаграфічныя і вуснапаэтычныя элементы народнай культуры арганічна ўводзяцца ў сістэму індывідуальна-аўтарскага светабачання, надаюць творам пісьменніка рамантычнае гучанне. Выхаванец гарадскога асяроддзя, А. Гарун прынёс у літаратуру і літаратурную мову местачковы і гарадскі каларыт, характэрныя стылёвыя адценні, лад мыслення і маўлення мешчаніна: *Любіць?.. Не любіць?.. У другую ўлюбіўся? // Мажа, ўдаваў закаханне на жарт? // Трэба аб гэтым спытацца у карт!* («Варожба»). У той час паэт бліскуча передае асаблівасці традыцыйнага сялянскага пласта беларускай мовы: *Ой, спаліце, перуны, // Майго Янку, бо дурны! // Назаляе толькі мне, // А каб сватацца, дык не!* («Мяцеліца»). Для А. Гаруна характэрна глыбокая стылёвая адпаведнасць лексікі, марфалогіі, сінтаксісу жанравым асаблівасцям твораў. У яго спадчыне мы знойдзем вершы публіцыстычныя: *Хто ж сказаў, а потым здрадзіў, // Хто пайшоў, а потым кінуў, // Хто ў душы сумленне згладзіў, // У кім апошні сорам згінуў,— // Хай дрыжыць. У дзень прысуду, // У страшны дзень я сведчыць буду!* («Хто сказаў...»); пейзажныя: *Снягі, ляды, // абрус жуды // назаўсягды, // на вечны час // ляглі. // Гара, скала // наўкол лягла // і узрасла // паўскрайны пас // зямлі* («Навакол...»); філасофска-медытатыўныя: *Жыццё — гасцінец, гады — як вёрсты, // Канец жыццёвы — то небаспад* («Жыццё»). Шырока прадстаўлены ў спадчыне паэта творы размоўна-гутарковага стылю: *Слухай, Іване, паночку, // Кепска ты робіш, браточку: // Хіба ж не сорам так жыць, // Гэткім нядбайлівым быць?* («Іванку»); *Жыў сабе ў сяле Мацей, // Меў шасцёра ён дзяцей, // Сядзеў, бедны, без работы, // Бо не меў к таму ахвоты* («Шчасце Мацея») і інш.

Паэтычная мова А. Гаруна вызначаецца надзвычайным рытміка-інтанацыйным багаццем, што ў вялікай ступені робіць яе роднаснай мове Я. Купалы. Напружанасць рытму, багатая рыфмоўка, у тым ліку ўнутраная і кальцавая (*Завіруха скача ноччу // Патарочай, плача, вые; // Пухавыл сыпе ў вочы // Снегавінкі мне; рагоча* — «Завіруха»), вар'іраванне даўжыні радка, разнастайныя фігуры паэтычнага сінтаксісу (напрыклад, анафара: *Застыдайся я — кога?* ***Свайго роднага*** *таты //* ***Сваей роднае*** *хаты! //* ***Сваей роднай*** *сярмягі! //* ***Сваей роднай*** *павагі! //* ***Сваей роднае*** *мовы — // Беларускай — вяковай!* — «Мае коляды»), якія шырока сустракаюцца ў вершах А. Гаруна, не толькі сведчаць пра выдатнае веданне паэтам роднага слова. Яны выступалі ў той час як неабвержны доказ багатых вобразна-выяўленчых магчымасцей беларускай мовы, сцвярджалі прынцыпы нацыянальнай моўна-літаратурнай вобразатворчасці. Пры ўсёй неардынарнасці і часам нават вышуканасці рытміка-інтанацыйнага малюнка і вобразнай насычанасці творы А. Гаруна заставаліся

добра зразумелымі шырокаму чытачу.

У лексічным арсенале А. Гаруна можна ўмоўна выдзеліць некалькі пластоў. Галоўны з іх — шырокаўжывальная народная лексіка, прадстаўленая як стылёва нейтральнымі, так і эмацыянальна афарбаванымі словамі. Гарадское паходжанне, лёс катаржаніна абумовілі наяўнасць у мове А. Гаруна спецыфічных лексічных адзінак — абазначэнняў рэалій рабочага жыцця *(вінкель, кельня, кайло)*, іх характарыстык, назваў-намінацый працоўных працэсаў. Нераспрацаванасць лексічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы таго часу, недастатковая дыферэнцыяцыя лексіка-стылістычных сродкаў прымушала пісьменніка ісці на пэўныя моўныя эксперыменты. А. Гарун вольна, шырока ўводзіць у беларускую мову словы кніжна-літаратурнага ўжытку. Гэта словы з абстрактным значэннем: *рок (Мой сын, з пачатку мы падуладны пану-**Року** — // У гэта вер* — «Навука»*), адвечнасць, бесканечнасць (Сярод нязнаных мне, не бачаных прастораў // Раўнінай той, што звецца **Бесканечнасць**, // Я лётаў думкаю б і воляй непакорнай, // І, можа б, там пазнаў цябе, **Адвечнасць*** — «Адбітак»); біблеізмы: *Эдэм* (*Скажы залатое, ці долю сваю // У **Эдэме** ўбачыў, спаткаў, палюбіў* — «Нязнаны госць»); *Бэльзэбул* (*Дык не дзіва, што лазаты, // Бэльзэбула сын рагаты, // З гэткай думкай падступіў* — «Шчасце Мацея»); *філісцімляне, асанна* і г. д., гістарызмы: *капішча* (*І сцены **капішча** да грунту патрасліся, // Магілай стаўшыся для тых, што ў ім знайшліся* — «Самсон»), *кмет* і інш. Блізкасць да каталіцкай, найчасцей польскамоўнай, культуры разам з адарванасцю ад жывога моўнага асяроддзя ў час высылкі абумовіла даволі значную колькасць паланізмаў у мове А. Гаруна: *суфіт* «столь», *дзісь* «сёння», *фэбра* «ліхаманка», *подлуг* «паводле», *ялмужнік* «жабрак» і інш. Неадзінкавыя ў яго творах і выпадкі ўжывання слоў і формаў, якія з пазіцый сучаснай беларускай літаратурнай мовы кваліфікуюцца як русізмы (*прыказаць, гардзіўся, слышыш, атвет, бяспомачнасць, распуцце, высахшы, старушка, цяжолы, страдаць* і інш.). Разам з тым большасць паланізмаў і русізмаў мае ў творах пісьменніка і ўласна беларускія адпаведнікі. У творах А. Гаруна сустракаюцца ўкраінізмы, якія не толькі адыгрываюць стылізацыйную ролю ў вершах «украінскай» тэматыкі (*перабэндзя грае, галушкі, нуж-мо*), але і ўводзяцца ва ўласна беларускі кантэкст (*пажэжа* «пажар», *маястат* «веліч»: *Бялее рыхла ўсход. Вось зараз ў сонца шаце // Найвышні з'явіцца у дзенным маястаце // І ўсё благаславіць...* «Самсон»). А. Гарун свядома пашыраў (няхай і не заўсёды ўдала) лексічны арсенал беларускай мовы за кошт запазычанняў, у тым ліку г. зв. інтэрнацыянальных слоў: *акорд, электрызацыя, прапазіцыя, экспенс* «выдаткі», *лятарг* «летаргічны сон» і інш. Пісьменнік актыўна ўводзіць у літаратурную мову і рэгіянальныя, часам вузкадыялектныя словы (*занік, плястры, насяклы, пудэлак, жывушчы, незрахована, мармыт, усягды, чатавацца, адзетка, балонка, гэтта, варэнная*), бачачы крыніцу ўзбагачэння літаратурнай мовы ў багацці жывых народных гаворак.

Лексічны, фанетычны, марфалагічны аналіз мовы твораў А. Гаруна дае падставы сцвярджаць, што ў яе аснову пакладзены найперш сярэднебеларускія гаворкі, асабліва іх заходні варыянт. Неўнармаванасць літаратурнай мовы, з аднаго боку, і імкненне да засваення здабыткаў усёй беларускамоўнай спадчыны, найперш праз мову газеты «Наша ніва», у якой А. Гарун друкаваўся, якую ўважліва чытаў, з другога, прыводзіла часам да непаслядоўнасцей у мове твораў пісьменніка (*яешня* і *канечне, хварбы* і *фантазіі*; змешванне формаў спражэння — *гавора* і *ідзець* і інш.). Сярод спецыфічных рысаў мовы А. Гаруна можна адзначыць, відаць, як працяг фальклорных традыцый, размоўна-бытавых уплываў, выкарыстанне клічнай формы назоўнікаў (*ветрэ, дзеўча*), кароткіх формаў прыметнікаў (*довег, скор*), спецыфічных канструкцый дзеяслоўнага кіравання (*Ці ж трэба ўспамінаць, што ўсе закінуў справы, // А з імі разам, бач, забыўся і аб суд?* — «Спогадзь»; *Як то кажуць: па вушы // Усёй хлапчынаю душай // Закахаўся ў дзяўчыне — // У яе вочках, грывіне, // У яе смеху звінячым* — «Мае коляды») і інш. Аднак у аснове сваёй мова А. Гаруна адпавядае тым граматычным прынцыпам, на якіх грунтуецца сучасная беларуская літаратурная мова.

Вельмі часта (і ў паэзіі, і ў прозе, і ў драматургіі) А. Гарун выкарыстоўвае параўнанні. Праз іх ён эмацыянальна выяўляе свае адносіны да таго, пра што піша. Часта ўдакладняе, разгортвае аўтарскую думку, выяўляе назіральнасць, абвостранасць зроку і слыху, вобразнасць свайго паэтычнага мыслення. Яны памагаюць больш канкрэтна, наглядна, вобразна паказаць прадмет, з'яву, дзеянне, абмаляваць пачуцці і думкі герояў, падкрэсліць пэўныя рысы іх натуры, характару. У мастацкі тэкст аўтар уводзіць параўнанні пры дапамозе злучнікаў *як, як бы, бы, быццам, што, усё роўна як, нібы, майляў, мэрам* і інш.: *Вясёлыя, шпаркія, цікавыя, **як свавольныя дзеці, згукі** музыкі на хвілінку сціхлі* («П'ера і Каламбіна»); *Але час прамінуў, і **нядоля** // На народ, **як бы камень, звалілась*** («Ты, мой брат, каго зваць Беларусам»); *Старое нешта ўсё спамінаецца, // Толькі **няясна, майляў, праз туман*** («Восень»); *І **ты**, о, любы мой! **Як лес зімовы**, // **Заснуў**, ляжыш, не можучы устаць* («Nocturno»); ***Цесна** ў карчме — **ў бочцы мэрам** // **Селядцоў, людзей набіта*** («Канец Паўлючонка»). Вылучаюцца жывапісна-пластычныя, вобразныя параўнанні (***Цененькія галасочкі, як шчэбет дробнага птаства,** зліваючыся ў адзін гул, твораць уражанне пекнага летняга паранку ў лесе...* — «П'ера і Каламбіна»). Сродкам выражэння бяззлучнікавых параўнанняў з'яўляюцца назоўнікі без прыназоўнікаў у творным склоне (*Каб умеў, дык сказаў бы я казку, // Заспяваў бы, як чыжык, гулліва // Ці **заплакаў бы ветрам** тужліва* — «Дзякуй, паночкі, за ласку») або ў любым іншым склоне, дзе параўнанне выконвае функцыю прыдатка (*Сваіх тут жменьку я спісаў // Маркотных **песняў-дум*** — «Людзям»); ***Жыццё-няволя** ў чужой старане, // Працы надмернай ярам // Зараз знікаюць...* — «Думкі — дыяменты, краскі жыцця»). Трапляюцца ў А. Гаруна і самабытныя формы параўнанняў: — *Ну і праклятыя ж сягоння марозы// Новы кажух прабірае, пся вера, // **Быццам кажух — не кажух, а папера;*** [Гусар] *Рады, смяецца, і ручкі цалуе, // Пусціць, абніме, ізноў прымілуе, // Ну, **не раўнуючы, мора хвалюе!*** — «Варожба»). І ў гэтым — шматстайнасць мастакоўскіх пошукаў адзіна правільнага слова, выказвання, перадачы руху думкі, пачуцця, першароднай свежасці фразы, гуку, інтанацыі.

Мова А. Гаруна багатая на фразеалагізмы, пераважна агульнанародныя, якія адлюстроўваюць нацыянальную спецыфіку нашай мовы, яе самабытнасць і дадаюць мове аўтара каларыту жывой натуральнай гутаркі, выразнасці, афарыстычнасці, дынамічнасці, вобразнасці: *Га-га-га! Бач, нага! // Сама ў бокі скача, // Заіграй, заспявай!.. // Не, брат: **сэрца плача...*** («Вяселле»); *Чалавек быў **з мухай у носе*** («Канец Паўлючонка»); *У галоўцы **маеш клёку,** // Маеш, братка* (Тамсама); *Гарэлку, аднак, п'юць яшчэ мацней, чым даўней у карчме, на што ў беднага Боруха **сэрца кроўю абліваецца** гледзячы...* («У Панасавым сяле»); *Ці ведаеце вы, што гэтыя падсуседзі з Польшчай і Маскоўшчынай **сталі яму косткай у горлі?*** («Одгукі»). Фразеалагізмы А. Гарун бярэ пераважна з народнай мовы ў нязменным выглядзе. Але трапляюцца і трансфармаваныя, перапрацаваныя аўтарам варыянты. Напрыклад, народнае *пячы ракі* 'чырванець' ён передае ў такой форме: *Сколькі **спёк я там ракаў,** // Каб хацеў, не злічыў бы* («Мае коляды»).

І аўтарскую мову, і мову персанажаў у творах А. Гаруна значна ажыўляюць прыказкі і прымаўкі — лагічна і граматычна завершаныя афарыстычныя выразы, якія адлюст-

роўваюць шматвяковы народны вопыт і мудрасць найчасцей у мастацка-вобразнай форме, што ўжываецца пераважна ў пераносным сэнсе: *...І* ***покуль сонца ўзыдзе,*** *//* ***Дык вочы выесць*** *нам салёная* ***раса,***— *// І покуль першы дзень людскога шчасця прыйдзе, // Мільёны сэрц праткне гароты злой каса* («Паэту»); *Недарма прыказка ў народзе— //* ***Бяда адна к нам не прыходзе*** («Апякун»); *Што й казаць — ты* ***выйграў*** *мала, //* ***«Як на мыдле пан Заблоцкі»*** («Добры вечар, мой Язэпка»); *Нейкім спосабам, яшчэ маладым будучы, папаўся ён у астрог — а* ***торбы і астрогу — не заракайся*** *— і ад таго часу зрабіўся зайсягдышным яго жыхаром* («Маладое»); [Жабрачка]: ***Якое ўбранне, так таму і прыманне, а якi пачот, такая і падзяка...*** («Шчаслівы чырвонец»); [Голас]: *Ой,* ***не наракай на шчасце! Не гань таго, што само ў рукі даецца. Даронаму каню,*** *кажуць,* ***у зубы не глядзяць, а не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць*** («Дзіўны лапаць, або не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць»).

Каб павысіць эмацыянальнасць паэтычнага выказвання, узвысіць яго тон, паяднаць асобныя радкі і часткі тэксту, А. Гарун неаднойчы выкарыстоўвае такую стылістычную фігуру, як анафара — паўтарэнне на пачатку вершаваных радкоў або суседніх строф аднолькавых гукаспалучэнняў, злучнікаў ці прыназоўнікаў (гукавая анафара), слоў (лексічная анафара), сінтаксічных канструкцый, выразаў (сінтаксічная анафара). Вось прыклады: ***А*** *на вёсцы — там прастор, //* ***А*** *за вёскай вечны бор, //* ***А*** *ў бары тым птушак хор, // Міліёны ноччу зор* («На сяло»); ***Няведама*** *мне, скуль усё і што я; //* ***Няведама мне*** *сама сцежка мая. //* ***Няведама мне,*** *і куды я іду* («Ідуць гады»); *Прычытала маці над дачкой у хаце: //* ***«Ах, мая*** *дачушка!* ***А мая*** *ж рыбулька, //* ***А мая*** *ж ты птушка,* ***а мая ж*** *зязюлька! //* ***А чаму ж ты,*** *доню, губкі сашчаміла? //* ***А чаму ж ты,*** *дзетка, вочанькі закрыла? //* ***А чаму,*** *дачухна, міла не ўсміхнешся?!* ***А чаму,*** *красухна, мне не адгукнешся?* («Два каханні»).

Вельмі важную ролю ў паэтычнай спадчыне А. Гаруна адыгрываюць прыметнікі-азначэнні, нагнятанне якіх — любімы прыём у паэта: *Восень* ***халодная, чорная, хмурая*** *// Сунецца* ***ціха, нячутна*** *штодзень* («Восень»); *Прамінаю слуп* ***убогі,*** *//* ***Траярогі*** *крыж* ***збуцвелы,*** *//* ***Пасівелы, цёмны, строгі*** («Завіруха»); *Але наступіць дзень* ***вясёлы, пекны, новы,*** *// І радасць вольнасці павінна завітаць* («Nocturno»). А вось як працуюць прыметнікі, паэтычна характарызуючы-абмалёўваючы родны край, у вершы «Як надарыцца мінута»: *Ты* ***нішчасны і убогі,*** *// Ты* ***бяздольны і забіты,*** *// Ты без шляху, без дарогі, // Ты* ***абдзёрты і прапіты,*** *// Подлай здрадаю* ***прададзены.*** *// Ты не свой,— даўно* ***забраны...*** *// Ты* ***квяцісты, залацісты,*** *//* ***І прыгожы, і аздобны,*** *// Ты* ***лясісты, каласісты.*** *// Можа рай табе падобны — // Колькі ж моцы маеш скрытай, // Колькі сілы неспажытай! // Ты паўстанеш,* ***працавіты, //Гаратнічы, невымоўны,*** *// Шчасця, долі* ***прагавіты,*** *// Мой* ***сланэчны, мой чароўны!***

Умее паэт выкарыстаць гукапіс, эўфанічныя мажлівасці роднага слова, нават шыпячых і глухіх зычных, якія вымоўна перадаюць шамаценне снегу, што засыпае ў полі адзінокага падарожнага: *Завіруха — // Рагатуха* ***сыпе снегу*** *// І ў* ***прабегу шэпча*** *ў* ***вуха:*** *// «****Заначуеш*** *— не* ***пачуеш:*** *// Я завею, я угрэю, // Зараз ляжаш, дзякуй* ***скажаш,*** *// Мне ты* ***скажаш».*** *Завіруха — // Рагатуха* ***шэпча*** *ў вуха* («Завіруха»).

Гаруновы героі — не толькі беларусы. Каб стварыць адпаведны моўны каларыт пры апісанні прадстаўнікоў іншых народаў, пісьменнік уводзіць у мову персанажаў асобныя спецыфічныя словы і звароты або выкарыстоўвае гукавыя, акцэнтуацыйныя, фанетычныя рысы гаворкі такіх персанажаў. Вось як, напрыклад, перадаецца адметнасць мовы і шапялявасць сібірачкі ў апавяданні «Свята»:

*— Проході, посіді,— адказала яму гаспадыня, каторая толькі адна была ў хаце. Грыневіч, аднак, не сеў, але, падышоўшы да дзвярэй, якія вялі ў куць, запытаўся ў гаспадыні, стаяўшай каля стала з пасудай: «Ці не можна было б, хадзяюшка, чайку ілі поесть чего-нібуть у вас дастаць?»*

*— Поісь? — адвярнулася ад яго гаспадыня,— чё с я тебе дам поісь,— у наш віть пошт?*

*— Ды і ў мяне сягоння пост, хадзяюшка, бо ад самаго цямна яшчэ нічога не ўкусіў, аж жывот падцягнула,— засмяяўся Грыневіч, не адыходзячы ад дзвярэй.*

*— Вох ті мне батюскі! — здзівілася гаспадыня,— экій ты, паря, і не шкажал, сто с утра не ел. Ну, посіді, я тебе редецкі ш квашам ізлазу, а потом і цай будем піть.*

Выдатна ведаючы жывую мову, законы народнай словатворчасці, паэт умела ўплятаў у мастацкую структуру вершаў наватворы, што вызначаюцца высокай экспрэсіўнасцю. Шляхі і прыёмы стварэння аўтарскіх слоў у А. Гаруна ў многім падобныя да купалаўскіх. Сярод пашыраных — наватворы з прыстаўкай *без:* бясскарбны (*Беднасць — не гора саўсім мне,* ***бясскарбнаму,***— *// Я багацей, замажней за другіх...*— «Думы ў чужыне»), *бясшчасны* (*Вось у чым гора бадзязе* ***бясшчаснаму*** *// Вось чаму сэрца маё так баліць, // Вось чаму хочацца к сонейку яснаму...*— Тамсама), *бясплеменнік* (*...ў гадзіну ўсіх гадзін // Ты там адзін // Маўляў* ***бясплеменнік*** *усім чужы, сканаў...*— «На смерць»); абстрактныя аддзеяслоўныя назоўнікі: *менне* 'назва, імя' (*Мы хацелі даць ім свету, // Зруйнаваці пушчу гэту, // Даць ім міласці прагненне, // Дзён шчаслівых даці* ***менне...***— «З песняў няволі»), *данне* «даніна» (*Зноў я прыходжу ў часе змяркання // Складаю літанне, нясу табе* ***данне*** *// Ад сэрца свайго, Адзінота* — «Літанне адзіноце»). Праўда, вызначыць дакладна, якія словы аўтар ужыў упершыню як індывідуальна-аўтарскія лексемы, а якія ўзяў з жывой народнай мовы, вельмі нялёгка.

Улюбёны прыём А. Гаруна — стварэнне складаных слоў, паяднанне ў адной лексічнай адзінцы і самога паняцця, і яго вобразна-эмацыянальнай характарыстыкі. Гэты шлях быў прадуктыўным пры стварэнні розных часцін мовы: дзеясловаў — *хавалі-няслі, зюкае-гамоніць* (*А мову ў сэрцы, // У сваім сэрцы* ***хавалі-няслі*** *мы* — «Ты, мой брат, каго зваць Беларусам...»; *Вее вецер вольны, // Хмары шыбка гоніць; // З вадой, зямлёй, лесам //* ***Зюкае-гамоніць***— «Вецер»), прыметнікаў, якія дакладна перадаюць унутраную характарыстыку з'яў, прадметаў, памагаюць аўтару ствараць выразныя пейзажныя, псіхалагічныя, сацыяльна-бытавыя малюнкі, вобразы — *зло-хмурлівы, цёмна-імглісты, скрытна-варожы, цёмна-хмарны* і інш. (*Роіцца нейкі нязведаны край, // Повен то шчасця, то жаласці, плачу, // То* ***зло-хмурлівы,*** *то светлы, як рай* — «Начныя думкі») і асабліва назоўнікаў — *дзіва-цуд, літара-агні, песні-думы, старонка-маці, чужаніца-куля, думкі-звадыяшкі, жыцце-няволя, дзяўчыначка-сэрца, дзедаў-прадзедаў, нійка-маці* і інш. (*Скрозь, куды хаця зірні,— // Здзівіць з дзівай* ***дзіва-цуд:*** *// У небе* ***літара-агні*** *// Свецяць ноччу і пры дні — // «Вызваль дух свой, рабскі люд!»* — «Кліч»; *Хто цябе спагадным сэрцам // Да сябе прытуле? // Хіба з стрэльбы чужаверца //* ***Чужаніца-куля*** — «У выгнанні»; *Думкі,* ***думкі-звадыяшкі,*** *// Ах, не мучайце мяне!* — «Эх, сягоння, ў гэту ночку») і інш.

Яшчэ ў 1913 г. ў артыкуле «За тры гады: Агляд беларускай краснай пісьменнасці 1911—1913 гг.» М. Багдановіч пісаў: «З паэтаў «Нашай нівы» назавём перш за ўсё А. Гаруна, ад каторага наша пісьменнасць можа шмат чаго спадзявацца. Лёгкасць і мілазычнасць верша, рупная шліфоўка яго, новае і вельмі пекнае счэпліванне рыфм — усё гэта дужа аздабляе яго паэзію. У дзе-якіх творах спатыкаецца сіла і сціснутасць мовы. Глаўна ж тое, што пры ўсім гэтым А. Гарун ні да каго іншага не падобны, што ён не зрабіўся нічыім «падгалоскам». Гэта зарука, што нашы надзеі на яго талент не пойдуць намарна». Як бачым, надзеі кла-

сіка нашай літаратуры А. Гарун спраўдзіў.

*Літ.:* Казбярук У. М. Светлай волі зычны звон. Мн., 1991. *У. В. Рагойша* *І. У. Саламевіч.*

## ГАРЭЦКІ МАКСІМ ІВАНАВІЧ



Пісьменнік, літаратуразнавец, лексікограф М. І. Гарэцкі нарадзіўся 18 лютага 1893 г. ў в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага раёна. У 1913 г. скончыў Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, у 1916 г.— Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў Петраградзе. З 1923 г. выкладаў беларускую мову і літаратуру на рабфаку БДУ, у Камуністычным універсітэце Беларусі, Мінскім ветэрынарным тэхнікуме, Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Займаўся выдавецкай і навуковай дзейнасцю, працаваў настаўнікам Віленскай беларускай гімназіі. З 1912 г. друкаваўся ў газ. «Наша ніва», быў рэдактарам і выдаўцом газет «Наша думка» (1920—21) і «Беларускія ведамасці» (1921—22). З 1928 г. вёў даследчую работу ў Інбелкульце (правадзейны член) і АН Беларусі.

М. Гарэцкі быў беспадстаўна рэпрэсіраваны. Расстраляны 10 лютага 1939 г.

З самага пачатку творчай дзейнасці М. Гарэцкі цікавіўся праблемамі нацыянальнага адраджэння, фарміравання беларускай мовы, народнай асветы, тэатра, літаратуры. Герой яго апавядання «У лазні» (1913) задае пытанні: *Беларусь, Беларусь, чым ты была і чаго ты, во, даждала?, І што з табою будзе?* і сам адказвае: *Але ж не адракацца, не быць здраднікам, а любіць, шанаваць родную Бацькаўшчыну павінен...* У апавяданні «Меланхолія» змешчаны зваротак М. Гарэцкага: *Краіна мая родная! Мы, твае верныя сыны, яшчэ перабудуем цябе!*, да якога далучаецца думка пісьменніка з артыкула «Наш тэатр» (1913): «Мы забылі сваю мову; старадаўная сіла і арыгінальнасць яе і гладкая, гучная форма ў доўгія часы нашай «татаршчыны» патроху псавалася...

Тэатр наш павінен ачысціць, абяліць мову і паказаць прад вочы людзей яе гучнасць і гібкасць». Звяртаючыся да пісьменнікаў, М. Гарэцкі ў гэтым артыкуле раіў ім прыслухоўвацца да мовы народа «на рынку, на кірмашы і ўсюдых-усюдых, і тыя, што жывіцё на захадзе Беларусі, даведайцеся, як гавораць на яе ўсходзе, а ўсходнія пабывайце на захадзе» (Гарэцкі М. Успаміны, артыкулы, дакументы. Мн., 1984. С. 188 — 189). М. Гарэцкі склаў «Руска-беларускі слоўнік» (Смаленск, 1918; 2 выд. Вільня, 1920, разам з Г. Гарэцкім), «Беларуска-расійскі слоўнічак» (3 выд. Мн., 1925), «Практычны маскоўска-беларускі слоўнік» (1924; 2 выд. Мн., 1926, разам з М. Байковым). Выдаў зборнік «Народныя песні з мелодыямі» (запісаныя ім ад маці, 1928 г., мелодыі запісалі А. Ягораў і М. Аладаў).

У сваіх творах М. Гарэцкі апрацаваў народна-дыялектную мову, беларускі фальклор з рэалістычнымі традыцыямі роднай, рускай і сусветнай літаратуры і ў той жа час стаў наватарам беларускай нацыянальнай прозы. Я. Карскі адзначаў, што М. Гарэцкі ўмее стварыць «цудоўны расказ паводле зместу і паводле натуральнасці выкладу» і што рэалізм у яго «даходзіць да дэталёвай анатоміі, да фатаграфавання фактаў» (Карский Е. Белорусы. Т. 3. Пг., 1922. С. 372 — 373).

Любоў да народна-дыялектнай мовы ішла да М. Гарэцкага ад самога жыцця, ад любові да свайго краю, Радзімы. Рознага роду дыялектызмы разам з агульнанароднымі словамі і словаформамі ствараюць натуральнасць, праўдзівасць, непаўторны каларыт у кожным творы пісьменніка, развіваюць варыянтнасць і сінаніміку беларускай літаратурнай мовы: *Сухое дрэва страшна і балюча скрыпала, быццам выказвала бяду, і гора, і ўсякае ліха. А яшчэ далёка-далёка.*

*— Бау...— гудзе звон на колькі вёрст уперадзе, гукае к сабе, заве, кліча. А як жа дайсці туды?*

*Бау-бау-бау, дзілінь-дзілінь-бау,— дробна аддаецца ў вушах. Шуміць лес. Зарагатаў злы дух, заплакаў жаласна, закугакаў і зліўся ў адной жудасна сумнай песні скрыпучага дрэва* («Роднае карэнне»); *Мляўкім і гострым нечым пояць каноплі паветра. Уссунуў дзед-даматур, што нічога нявартьі ні ў касе, ні нават з граблямі, а пільнуе двору, дзяцей і пчол, уссунуў доўгую плашку на худыя, сагнутыя жыццём плечы ў дзіравенькім жупане і панёс яе па канаплянай сцежцы на гумно — сушыць асець жыта, першую сёлетнюю асець. Гэты дзед — паэта ў душы і вельмі ўлюбіў пару года між летам і восені, калі надыходзіць пярэкрут у прыродзе на зіму, калі ўсё раслліннае даспявае, сыпле семя, дбаючы аб сваім жыцці ў патомстве, і з ціхаю пакутаю ці то пакораю спрадвечнаму закону жойкне, схіляецца, ападае* («Ціхая плынь»). Словы і словаформы, якія зараз не лічацца літаратурнымі нормамі: *скрыпала* 'скрыпела', *бау, бау-бау-бау* 'бах, бом, бом-бом-бом', *гостры* 'востры', *даматур* 'дамасед', *двору* 'дома, дадому', *паэта* 'паэт', *пярэкрут* 'паварот' — памагаюць у творы іншым словам і словаформам выконваць экспрэсіўную і інфармацыйную функцыю (у першым выпадку *скрыпала* і *бау* памагаюць дрэву «выказваць» бяду, гора і ўсякае ліха, а таксама *рагатаць, плакаць, кугакаць* злому духу, у другім — адзначаныя моўныя адзінкі інфармуюць пра асяроддзе, з якога выйшаў герой). Акрамя таго, мастацкасць тэксту тут надаюць яўныя элементы паэтычнай мовы: асанансы і алітэрацыя (спалучэнні галосных гукаў *о, э, а*, шматлікія паўторы гука *а*, спалучэнні зычных тыпу *сх, дрв, стр, блч, скрп, бцз, бгр, ўслх* і інш. разам са словамі *дробна, шуміць, зарагатаў, закугакаў, жудасна*, са словазлучэннямі *страшна скрыпала, гудзе звон уперадзе, заплакаў жаласна, зліўся ў сумнай песні, скрыпучага дрэва* і інш. імітуюць гукі нежывой прыроды, выклікаючы ў чытача разнастайныя слыхавыя асацыяцыі), эпітэты (нешта *мляўкае* і *гострае*, плечы *худыя* і *сагнутыя жыццём*, жупан *дзіравенькі*, сцежка *канапляная*, пакута *ціхая*, закон *спрадвечны*), метафары *(звон гукае к сабе, злы дух заплакаў жаласна, нечым пояць каноплі паветра, усё расліннае сыпле семя, дбаючы аб патомстве)*, сінонімы *(гукае — заве — кліча, даспявае — жойкне, сыпле семя — ападае* і інш.), параўнанні *(быццам выказвала бяду і гора, і ўсякае ліха)*, паўторы злучнікаў і гукаперайманняў *(і—і, ні—ні, калі—калі, бау—бау—бау—бау* і інш.), градацыя *(даспявае, сыпле семя, жойкне, схіляецца, ападае)* і інш.

Адметнымі для апавяданняў М. Гарэцкага «Знібее сэрца», «Ідуць усе — іду я...», «Патаёмнае», «Роднае карэнне», «Стогны душы», «Страхаццё», «Усё мінаецца», «У чым яго крыўда?», «Што яно?» і інш. з'яўляюцца выкарыстанне элементаў розных стыляў, спецыфічныя лексіка і сінтаксіс. Свае творы пісьменнік пастаянна дапрацоўваў, шліфаваў, удакладняў іх назвы (напрыклад, першая яго аповесць называлася ў розныя часы: «За што», «Ціхая песня», «Ціхая плынь»).

Узбагачэнне літаратурнай лексікі за кошт дыялектнай было пастаян-




**М. Гарэцкі. «Беларуска-расійскі слоўнічак» (тытульны ліст). 1925.**

ным клопатам М. Гарэцкага. Укладальнікі яго Збору твораў у 4 т. выбралі і растлумачылі каля 400 дыялектных слоў, якія найбольш часта выкарыстоўваў пісьменнік: *аборак* 'лужок', *амбарас* 'непакой', *бутувацца* 'сіліцца', *груздзілы* 'цуглі', *зюклівы* 'гаваркі', *кукобіцца* 'песціцца', *угрунь* 'бегам' і г. д. Адзінкавых ці рэдкаўжывальных дыялектызмаў у М. Гарэцкага налічваецца да дзвюх тысяч. Напрыклад, у абразку «У панскім лесе», які складаецца ўсяго з 27 радкоў, ёсць такія дыялектызмы, як *карожся* 'выстаўляйся', *забаўтайся* 'захістайся', *саўсім* 'зусім', *шабадранымі* 'паношанымі', *шчапель* 'нож', *болачка* 'воблачка'. Шматлікія дыялектныя словы пісьменнік растлумачваў непасрэдна ў тэксце твораў: *І ты* ***баўцян*** *— магутнакрылы бусел-****чарнагуз!****, ...замаркатаў* ***дзікі баран*** *(чэпік) угары каля балота..., ...цішэй гудзіць дуда і цішэй галосяць дудкі-****пасвісцелі*** *(так завуцца тут падвойчыя жалейкі)..., ... будуць есці госцейкі* ***«перапечы»*** *— семя праскурак, што густа параслі па вуліцы пад плотам і пад сцяною...* і г. д. М. Гарэцкаму сучасная беларуская літаратурная мова абавязана словамі *агрызнуць, брында, варыўня, вязёнкі, гнёт* 'цяжкі прадмет, груз', *захвіцэнне* 'летаргічны сон', *ёдка, ёлкі, загнет, лучаць, нагбом* і *набгом, мост* і *памост* 'падлога', *мялка* і *мяліца* 'церніца', *пол* 'нары, палаці', *кухаль* і *кухлік, латушка, настальваць* і *насталіваць, пастаялка* 'малако', *спамінаць* і *спамін, спаміж, суднік, сяніца* 'адрына', *тарпа* 'скірда', *усведамляць* і *усвядоміць* і шмат інш. Пісьменнік заклікаў рэгулярна ўводзіць «у нашу літаратурную мову, чымся пазычыць у суседзяў», спецыфічныя мясцовыя словы з адцягненымі паняццямі (Гарэцкі М. Велікодная пісанка. Вільня, 1914. С. 56—57.)

Ідучы за народнымі (пераважна роднымі) гаворкамі, М. Гарэцкі ўводзіць у моўную фактуру сваіх твораў не толькі вобразныя і эмацыянальна-экспрэсіўныя выразы і словазлучэнні, але часам і таўталагічныя, немілагучныя, нават алагічныя: *Худое лета выдарылася хутарку, запанавала смяценне, быццам застыгла ў думках, да ног раскрыжаванага за словы любові і міру, заказуючы храбрасць у баі і літасцівасць да заможнага ворага, Істава хрысціліся і малебным поглядам прыліпалі да абраза спасіцеля ў цернявым вянку і не ўтрымлівалі буйных слёз пагукання запасныя, ночы да хутара з пазіцыі прыйшлі салдаты, кажучы аб другое, Тры пары, дзень і ноч, гудзіць мацьзямля, шэра-бліскучыя тупаючыя рускія грамады* («Літоўскі хутарок»); *А яны гамоняць і гамоняць,— студэнцік рохкае, паненка — чорны жучок — ад посвісту аж захлібаецца, начальнік ківае барадатаю галавою і часам злёгку падраготвае, як пашталвік, што ля акенца, і той, як свой да сваіх, галаву назад закруціць і ўхмыляецца моўчкі; Сляпун зайчона стагнаў і стагнаў; Роіліся і роіліся абразы мінуўшчыны; Ну, дай сабе!; Назаўтрае во малацьба; пачынае маці плясці свае доўгія і цікавыя пляткі; Жывыя аб жывым клапоцяцца, забываюцца на могільнік; Вечны. Якое страшнае і вяліка-спакойнае слова...* («Меланхолія») і інш. Пісьменнік заўсёды заставаўся верны гаворкам роднай Мсціслаўшчыны, іх адметнай лексіцы, выкарыстоўваючы ўсё багацце народнай сінанімікі, напрыклад: *раннем — у ранне — уранні — урання — зранку — уранку — наранку — ранкам — досвіткамі — досвіткам — досвета — досвіцця — удосвіцця — удосвецця — да свету* і г. д. Часам ёсць у яго мове выпадкі стылізацыі пад старажытнае: *заслаў дым усё поле ваеннае, равуць валы вайсковыя, іржуць коні літоўскія, гудзяць званы хаўтурныя...* («Лірныя спевы»); *усе дарожкі абсаджаны салодкімі яблынькамі ў два рады, а на тых яблыньках пяюць птушачкі залатапёрыя свае песенькі вясёлыя...* («Меланхолія») і інш.

У мове твораў М. Гарэцкага шмат разнастайных устойлівых выразаў як агульнавядомых [*зубы замаўляць, лезці асою (асвою) у вочы, даць (не даць) веры, не ймецца веры, плот гарадзіць, шукаць ратунку, прасіць рады, камар носа не падточыць*], так і вузкамясцовых (пераважна з Мсціслаўшчыны) тыпу *праваліцца наскрозь доння, хоць жыцця рашыся, пакласці здароўе, з духу выбіцца* і інш.

Народную аснову маюць многія параўнанні і паўторы, якімі напоўнены кожны твор пісьменніка, асабліва навелы: *пальцы, як граблі... чырванелі, як буракі; паглядае, бы шашок; цямнеючаю плямаю астаецца; скокі за скокамі; нізенька-нізенька; не да гуляння... не да вяселля* і г. д. Вельмі часта яны ўжываюцца ў сукупнасці: *І адразу пачулі ўсе, што па дарозе ідуць, па шляху, з-пад гайка, за сялібамі, ідуць і песню пяюць, нібы старцы якія, нібы гулякі заядлыя, безгаловыя* («Патаёмнае»); *Кідалася-кідалася, як падбітая курыца, цётка Марыля па мястэчку...* («Кірмашовае пабоішча ў мястэчку Крывічах»). Панароднаму стваракоцца шматлікія сінанімічныя словы-кампазіты *жаліццасумуе, пухка-пушыстыя, званчэй-гучней, рунее—зелянее, зязюля—кукунь шэрая, кур-пыл ад попелу, невымоўна-тужлівыя песні* і інш.

М. Гарэцкі ўмела карыстаўся ўсімі відамі так званай «чужой» мовы. Асабліва па-майстэрску ён выкарыстоўваў няўласна аўтарскую і няўласна простую мову: *Жальба апанавала Іванаву душу. Скрыўджаны быў да канца-краю і кім жа? — братам сваім родным; Іван тужыў. Учора ўвечары пайшла добрая карта, думаў адгуляцца — на табе, халера прынесла жонку* («Зіма»); *Адны маўчалі, задумаліся, другія з выгляду павесялелі, зашумелі. Але ўсё гэта было толькі звонку... А што рабілася ў сэрцы кожнага? Захацелася пісаць лісты дамоў і знаёмым. Сеў пісаць — і не пішацца. Лепей пачакаць яшчэ троху, пакуль справа не зробіцца святлейшаю.*

*Ну і трапіў у завіруху!* («На імперыялістычнай вайне»).

Спалучэнне агульнанароднага маўлення з мясцовым, звычайнага з незвычайным, жартоўнага з сур'ёзным, гутарковага з кніжным, празаічнага з паэтычным стварае спецыфіку мовы твораў М. Гарэцкага, яго індывідуальны стыль, мастацкі почырк. Ужо ў першым сваім зборніку «Рунь» (1914) пісьменнік клапаціўся пра народнасць і зразумеласць мовы, амаль зусім знішчаў яе знешнюю «квяцістасць». Ён дбаў і пра займальнасць сюжэта, стараўся пашырыць жанравыя рамкі беларускай мастацкай прозы (дзённікавыя запісы, лісты ці вытрымкі з іх, дакументы і інш.). У далейшым М. Гарэцкі стварае ўзоры невядомай да яго беларусам новай апавядальнай мовы, так званага ўскладнена-метафарычнага стылю, рытмізаванай і арнаментальнай прозы. У яго стылі пераважаюць простыя сінтаксіс над складаным, шматабзацнасць, так званая «рубленая» фраза, частая простая мова, няўласна простая і няўласна аўтарская мова, увогуле ўсе віды і падвіды «чужой» мовы разам з аўтарскай. Мастацкае апавяданне М. Гарэцкага з лірычнай імпрэсіі, элегіі, філасофскай навелы паступова ператвараецца ў сацыяльна-псіхалагічнае, эпічнае палатно — аповесць і раман («Ціхая плынь», «Камароўская хроніка»,

«Віленскія камунары» і інш.). Пісьменнік з'яўляецца першапраходцам і ў новай тэматыцы, і ў выпрацоўцы самабытнага стылю (асабліва ў цыклах апавяданняў «Сібірскія абразкі» і «Люстрадзён»).

Арыгінальнасць стылю, уменне па-майстэрску карыстацца гутарковым словам і сінтаксісам робяць мову М. Гарэцкага поліфанічнай, маўленне кожнага героя індывідуальным. Прыём адкрытай размовы з чытачом выхоўвае і будзіць яго думкі, актывізуе яго волю: *Не падумайце, людзі добрыя, што ў апавяданейку гэтым выдумка хітрая, пляцень мастацкі... Не.* («Рунь»); *Ці даводзілася вам праязджаць па вёсцы ў канцы лета, калі нітачкі прыгожага засмучэння ўжо снуюцца нявідна і незлавіма ў цёплым паветры, ужо вяшчуюць восень?* («Ціхая плынь»).

Аўтабіяграфізм і дакументалізм, аўтарскае і няаўтарскае ў такіх творах, як дакументальна-мастацкія запіскі «На імперыялістычнай вайне», «Камароўская хроніка» і інш., вымагалі ад іх аўтара пошукаў неабходных моўна-выяўленчых сродкаў у розных жанрах старажытнай беларускай літаратуры (летапісы, хронікі, дыярыушы і г. д.). Моўна-стылявы метад М. Гарэцкага аказаў значны ўплыў на розных майстроў беларускага літаратурна-мастацкага слова, асабліва на празаікаў-маладнякоўцаў. У свой час пісьменнік выступаў з крытыкай маладнякоўцаў, у прыватнасці за іх злоўжыванне русізмамі, неўласцівымі беларускай мове формамі дзеепрыметнікаў, формамі роднага склону назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў і г. д. («Маладняк за пяць гадоў: 1923—1928». Мн., 1928). У публічных лекцыях і шматлікіх артыкулах М. Гарэцкі разглядаў моўныя пошукі многіх беларускіх пісьменнікаў, пачынаючы ад Ф. Скарыны. Цікавы артыкул М. Гарэцкага «Колькі слоў аб творах і мове М. Лынькова» (Маладняк. 1928. № 6), дзе аўтар значную ўвагу аддае лексічна-нарматыўнаму аналізу мовы твораў М. Лынькова.

Роднай мове і роднай літаратуры пісьменнік прысвяціў нямала радкоў у сваіх творах («Роднае карэнне», «У чым яго крыўда?», «Меланхолія», «Ціхая плынь», «На імперыялістычнай вайне», «Віленскія камунары» і інш.), у «Гісторыі беларускае літаратуры» (Вільня, 1920; 4 выд. Мн., 1926), «Хрэстаматыі беларускае літаратуры. XI век — 1905 г.» (Вільня, 1922), «Беларускім дэкламатары» і віленскіх газетах, якія ён рэдагаваў. Лексікаграфічная, выкладчыцкая і даследчая работа М. Гарэцкага ў галінах фальклору, мовы і літаратуры з'явілася значным укладам у культуру і адраджэнне беларускай мовы.

*Літ.:* Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі. Мн., 1968; Падгайскі Л. Жывая спадчына // Полымя. 1969. № 6; Абабурка М. В. Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры. Мн., 1987.

*М. В. Абабурка.*

## ГЕНЕАЛАГІЧНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ МОЎ

Агульны продак моўных сем'яў — прамова, або мова нашых прабацькоў, што існавала раней і знікла зараз. Прамова большасці падобных сем'яў (у прыватнасці, індаеўрапейскай і яе галіны славянскай) існавала задоўга да стварэння пісьменства, таму яна не захавалася ў тых старажытных пісьмовых помніках, якія дайшлі да нас. Але пра тое, што такая прамова была, можна меркаваць па ўскосных, а іншы раз і па прамых доказах. Напрыклад, усходнеславянская галіна агульнаславянскай, ці праславянскай, мовы раздзялілася на рускую, украінскую і беларускую мовы адносна нядаўна, толькі ў 14 стагоддзі. Да гэтага ж часу, прынамсі ў літаратурным варыянце, існавала адзіная старажытнаруская мова, якая зафіксавана ў даволі шматлікіх пісьмовых помніках (самы вядомы з іх «Слова пра паход Ігаравы»), гэта значыць, што адзінай прамовай усходнеславянскіх моў лічыцца добра даследаваная старажытнаруская мова. Але агульнага продка ўсіх славянскіх моў у пісьмовай форме няма. Тым не менш вучоныя імкнуцца аднавіць яе параў-



нальна-гістарычным метадам, і ў прыватнасці метадам унутранай рэканструкцыі, сутнасць якога заключаецца ў супастаўленні існуючых форм адной мовы пры аднаўленні, напрыклад, знікшага слова, і такім чынам «вылічыць» незафіксаваныя на пісьме моўныя адзінкі. Напрыклад, у помніках старажытнаславянскай мовы не адзначаецца прыметнік **брадатъ* 'барадаты', але ёсць прыметнікі *рогатъ* 'рагаты', *оустатъ* 'балбатлівы' і назоўнікі *рогъ, оуста* 'рот', *брада.* На аснове гэтых дадзеных можна пабудаваць ураўненне *рогъ: рогатъ = брада: x,* з якога лёгка вылічыць, што ў гэтым выпадку x = **брадатъ*. Форма слова, якая аднаўляецца, называецца архетыпам ці праформай і пазначаецца зорачкай (*).

Чым глыбей апускаемся мы ў гісторыю, тым больш падабенства знаходзім паміж роднаснымі мовамі, якія цяпер могуць адрозніваецца даволі істотна. Такім чынам, у аснову самой генеалагічнай класіфікацыі моў кладзецца прыкмета іх гістарычнай сувязі, паходжання і развіцця іх з адзінай прамовы. Радаслоўная моў звычайна паказваецца ў выглядзе дрэва, ствалом і найбольш буйнымі галінамі якога з'яўляюцца прамовы, а больш тонкімі галінкамі — канкрэтныя мовы. Так, сучасныя роднасныя славянскія мовы ствараюць адзіную моўную сям'ю і на малюнку-дрэве можна бачыць іх генеалагічную класіфікацыю.

На гэтым дрэве беларуская мова паказана ў выглядзе верхняй галінкі ўсходнеславянскіх моў. Дзве другія галінкі гэтага сука — блізкароднасныя беларускай мовы руская і украінская. Заходнеславянскія мовы складаюць блізкароднасныя польская, чэшская, славацкая, верхне- і ніжнелужыцкія мовы, а паўднёваславянскія — балгарская, македонская, сербскахарвацкая і славенская мовы.

У выглядзе падобных схем распрацавана і генеалагічная класіфікацыя ўсіх астатніх індаеўрапейскіх моў, а таксама іншых моўных сем'яў (цюркская, уральская, дрывідская і г. д.). На агульным дрэве індаеўрапейскіх моў, акрамя славянскіх, знаходзяцца балтыйскія, раманскія, германскія, індаіранскія, грэчаская, армянская, албанская і на сёння ўжо мёртвыя мовы, напрыклад, скіфская, палабская, ілірыйская і інш.

Звычайна роднасныя мовы, калі паказаць іх распаўсюджанне на геаграфічнай карце, знаходзяцца побач, гэта значыць, што яны маюць паміж сабой сувязі не толькі ў часе, але і ў прасторы. Так, беларуская мова жыве ў акружэнні блізкароднасных рускай і ўкраінскай моў, роднаснай польскай мовы і менш роднаснай літоўскай. Але ўлічваючы, што гістарычныя працэсы не развіваюцца па строгай лагічнай схеме, а таксама беручы пад увагу складаныя міграцыйныя працэсы вялікіх груп людзей і цэлых народаў, можна заўважыць на геаграфічнай карце прасторавую ізаляцыю некаторых роднасных моў. Так, венгерская мова, а таксама фінская і эстонская, якія з'яўляюцца галінамі угра-фінскай моўнай сям'і, не суседнічаюць паміж сабой і з астатнімі роднаснымі мовамі (марыйская, мардоўская, удмурцкая і інш.), што тлумачыцца перасяленнем продкаў сучасных венграў, носьбітаў дадзенай мовы, з Паволжа на Дунай, а фінаў і эстонцаў у Прыбалтыку.

Роднаснасць моў найбольш відавочна праяўляецца ў супадзенні ці падабенстве асобных моўных элементаў, напрыклад слоў. Так, беларускае слова *брат* цалкам супадае па сваім значэнні і па форме з гэтым словам ва ўсіх астатніх славянскіх мовах. У менш роднасных літоўскай, нямецкай, англійскай, французскай мовах гэта слова пішацца адпаведна *brólis, Bruder, brother, frère,* што сведчыць пра значна меншае падабенства гэтага беларускага слова і яго лексічных эквівалентаў у іншых мовах і меншую сваяцкасць беларускай мовы з гэтымі мовамі.

Агульныя элементы ў роднасных мовах трэба адрозніваць ад запазычанняў — слоў, якія пераходзяць з адной мовы ў другую разам з запазычанымі прадметамі ці з'явамі (параўнаем: у беларускай мове словы *футбол* з англійскай, *курорт* з нямецкай, *бюро* з французскай і г. д.). Для запазычаных слоў можна зафіксаваць час і крыніцу іх паходжання, у той час як зыходна роднасныя словы спрадвеку існуюць у жыцці таго ці іншага народа.

Такім чынам, генеалагічная класіфікацыя моў базіруецца на іх сучасным падабенстве і па гістарычных сувязях, якія зводзяць іх на глыбіні вякоў да адзінай крыніцы.

*Літ.:* Гамкрелидзе Т. В., Иванов В. В. Индоевропейский язык и индоевропейцы. [Т.] 1—2. Тбилиси, 1984; Иванов В. В. Генеалогическая классификация языков и понятие языкового родства. М., 1954; Иллич-Свитыч В. М. Опыт сравнения ностратических языков. [Т.] 1. М., 1971; Историческая типология славянских языков. Киев, 1986; Мейе А. Сравнительный метод в историческом языкознании. М., 1954; Порциг В. Членение индоевропейской языковой области. М., 1964; Теоретические основы классификации языков мира: Проблемы родства. М., 1982.

*Б. А. Плотнікаў.*

## ГЕРМАНСКІЯ МОВЫ

Больш за паўмільярда людзей лічаць сваімі роднымі германскія мовы. Гэта сталася галоўным чынам за кошт глабальнага распаўсюджання англійскай мовы, якой карыстаюцца жыхары ЗША, Канады, Аўстраліі і іншых краін далёка за межамі Еўропы.

Яшчэ ў 5 ст. да н. э. носьбіты германскай прамовы жылі на вельмі абмежаванай тэрыторыі нізоўя Эльбы, Ютландскага паўвострава і паўднёвай Скандынавіі, адкуль праводзілі шматлікія экспансіі, у тым ліку за межы Рымскай імперыі. На пачатку нашай эры каля вусця Віслы высадзіліся готы. Яны рассяліліся на велізарнай тэрыторыі, прайшоўшы шлях на паўднёвы ўсход уздоўж Віслы, Прыпяці, Дняпра да Крыма і Прыазоўя. У 6 ст. н. э. на гоцкую мову, якая прадстаўляла ўсходнегерманскія мовы, было перакладзена Евангелле, частка яго зберагласе ў выглядзе помніка, вядомага пад назвай Біблії Вульфілы. Гоцкая мова — найбольш старажытная сярод германскіх моў, цяпер мёртвая. Апошнія яе носьбіты былі выяўлены ў Крыме ў 16 ст. Прарадзіма готаў — паўднёвая Скандынавія і востраў Готланд. Ад іншых усходнегерманскіх моў (вандальскай, бургундскай і г. д.) помнікаў не зберaглося.

Другая група германскіх моў — паўночнагерманская. Тэрытарыяльна яна ахоплівае ўсю Скандынавію, Ісландыю і шэраг астравоў. Жывымі прадстаўнікамі гэтай групы з'яўляюцца сучасныя скандынаўскія мовы: шведская, дацкая, нарвежская, ісландская. Дацкая і нарвежская яшчэ на пачатку нашага стагоддзя былі фактычна дыялектамі адной мовы. Найбольш старыя помнікі зберaглі ісландцы. На старажытнаісландскай мове ў 3 ст. н. э. створаны першыя, так званыя рунічныя, надпісы (руны — своеасаблівыя пісьмовыя знакі). Старажытнаісландская мова была мовай паўночнагерманскага эпасу («Старшая Эда») і славутых ісландскіх саг, але тэксты гэтыя запісаны толькі ў 12—13 ст.

Трэцяй групай германскіх моў лічыцца заходнегерманская. Да яе адносяцца такія сучасныя мовы, як нямецкая, галандская, англійская. У нямецкай мове выдзяляюцца 2 вялікія дыялекты — ніжненямецкі, на аснове якога склалася галандская літаратурная мова, і верхненямецкі, які пераtварыўся ў нямецкую літаратурную мову — дзяржаўную мову немцаў, аўстрыйцаў, швейцарцаў (для апошніх разам з французскай і італьянскай). Германскія продкі немцаў распаўсюдзіліся ў Цэнтральнай Еўропе яшчэ да нашай эры. Найбольш старажытныя помнікі нямецкай мовы адносяцца да 8—9 ст. н. э. Гэта тэксты культавага значэння і «Песня пра Гільдэбранта». Гераічны эпас, які ўзыходзіць да эпічнай традыцыі часоў т. зв. вялікага перасялення народаў (6 ст. н. э.),— «Песня пра Нібелунгаў» — быў запісаны ў 13 ст. Германскія продкі носьбітаў англійскай мовы (англы і саксы) спачатку засялілі частку тэрыторыі паміж

Эльбай і Рэйнам, асіміляваўшы кельцкае насельніцтва, а потым у 5 ст. н. э. перасяліліся на Брытанскія астравы. Таму старажытнаанглійская мова называецца таксама англасаксонскай мовай. Яе першыя помнікі адносяцца да 9 ст. н. э. Паэма «Беавульф», якая адлюстроўвае больш старажытны моўнакультурны пласт (эпічны), была запісана пазней. У новы час носьбіты англійскай мовы ў сувязі з экспансіяй англійскай імперыі распаўсюдзіліся ў Паўночнай Амерыцы, Афрыцы, Аўстраліі. На аснове галандскай мовы ў паўднёвай Афрыцы развілася мова бураў — афрыкаанс.

Паходжанне прагерманскай мовы, якая распалася, відаць, у 5—3 ст. да н. э., не зусім яснае. Існуе даволі вялікі слой германскай лексікі, які не мае паралеляў у іншых індаеўрапейскіх мовах і ўзыходзіць, як можна лічыць, да мовы індаеўрапейскіх жыхароў Паўночнай Еўропы, пра якіх мы нічога дакладна не ведаем. Характэрныя рысы германскіх моў — сілавы націск на пачатку слова, які прывёў да страты канчатка, так званае першае перамяшчэнне зычных (*p, t, k* замяняюцца адпаведна на *f, th, h* і г. д.), выразнае марфалагічнае проціпастаўленне катэгорыі граматычнага роду асноў на *-ō-* і *-a-*, наяўнасць дзвюх форм прыметнікаў (слабых з *-n-* вызначальнікам і моцных, якія характарызуюцца займеннікавымі канчаткамі).

Кантакты паміж германскімі і славянскімі мовамі адносяцца яшчэ да прагерманскага перыяду (да 5 ст. да н. э.) і адбываліся на ніжняй і сярэдняй Одры. Пра гэта пераканаўча сведчаць лексічныя інфільтрацыі з германскіх моў у славянскія і наадварот. Асабліва паказальныя славянізмы ў прагерманскай мове, бо германізмы ў праславянскай мове могуць быць больш позняга перыяду і мець гоцкую крыніцу, што звязана з гоцкай экспансіяй на паўднёвы ўсход ад балтыйскага ўзбярэжжа ў пачатку нашай эры.

Беларуская мова ведае шэраг германізмаў (гл. **Запазычанні**), якія адносяцца да розных перыядаў яе развіцця. Найбольш старажытныя і найменш вядомыя і надзейныя запазычанні — з гоцкай мовы. Готы праходзілі басейн Прыпяці на шляху да Дняпра на пачатку нашай эры, магчыма, разам са славянскімі плямёнамі. З гэтага перыяду ў беларускай і ўкраінскай мовах захавалася слова *шчыры*. Асабліва блізка да гоцкага беларускае значэнне *шчыры бор* 'светлы, ясны бор', *шчыры грыб* 'белы грыб' і г. д. Такім чынам, беларускае *шчыры* з гоцкага *skeirs* 'светлы, ясны'.

Запазычанні з нямецкай мовы ў пераважнай большасці адбываліся праз польскае пасрэдніцтва. Так, беларускае *рэшта* з польскай *reszta* з нямецкай *Rest*. Але некаторыя словы нямецкага паходжання трапілі ў беларускую мову непасрэдна. Напрыклад, беларускае *крыга* ў значэнні 'рыбалоўная снасць', старабеларускае *крига, крыга* 'прылада для лоўлі рыбы' — відавочнае запазычанне з сярэдневерхненямецкай мовы.

Англізмы адносяцца пераважна да самага новага перыяду гісторыі беларускай мовы. Усе яны прайшлі рускае або польскае пасрэдніцтва: *клоун* (з clown), *байкот* (з boycott) і г. д.

*Літ.:* Прокош Э. Сравнительная грамматика германских языков. М., 1954; Krahe H. Germanische Sprachwissenschaft. Bd. 1—2. Berlin, 1956—57; Сравнительная грамматика германских языков. Т. 1. М., 1962; Мартынов В. В. Славяно-германское лексическое взаимодействие древнейшей поры: (К проблеме прародины славян). Мн., 1963; Жураўскі А. І. Лексіка нямецкага паходжання ў беларускай пісьменнасці XV—XVIII стст. // Беларуская мова: (Даследаванні па лексікалогіі). Мн., 1965.

*В. У. Мартынаў.*

## ГІДРАНІМІКА

Гідраніміка (грэч. hýdor вада + + ónyma імя, назва) — раздзел тапанімікі (гл. **Тапаніміка**), які вывучае гідранімію — сукупнасць уласных назваў прыродных або штучных водных аб'ектаў (мораў, заліваў, праліваў, ліманаў, рэк, азёр, ручаёў, крыніц, балот, сажалак, вадаспадаў, вадасховішчаў і інш.).

Адзін і той жа водны аб'ект (асабліва буйны) можа мець у розных народаў 2, 3 і больш назваў. Напрыклад, рака *Дняпро (Днепр, Непр)* у старажытных грэкаў называлася *Барысфен*, у рымлян — *Данапрыс*, у туркаў — *Узу* або *Узы*; рэкі *Вілія* і *Нёман* літоўцы называюць адпаведна *Нерыс, Нямунас*. Рака *Заходняя Дзвіна* вядома больш чым пад дзесяццю назвамі: *Эрыдан, Рудон, Рубон, Родан*, у ніжнім цячэнні — *Хезін, Херзін, Турунт, Танаіс*, у немцаў — *Дзюна, Віна* або *Вена*, у латышоў — *Даўгава*. У рускіх летапісах *Чорнае мора* ўпамінаецца пад назвай *Понтмора, Панецькае мора, Рускае мора*. Старажытныя грэкі называлі яго *Понт Эўксінскі* (Гасціннае мора), іранцы — *Ахшаена* (Цёмнае), туркі — *Кара-Дэніз* (Чорнае мора). Рака *Волга* ў антычных аўтараў (Клаўдзія Пталамея і інш.) называлася *Ра* (зараз такая назва захавалася толькі ў мардоўцаў), у цюркскіх народаў — *Іціль*, у марыйцаў — *Йул*.

Гідранімія Беларусі — прадукт разнамоўны і розначасовы. Асноўны яе пласт складаюць славянскія найменні. Больш за 1000 назваў рэк, як мяркуюць гідранімісты, паводле паходжання балцкія. Сустракаюцца гідронімы, якія паходзяць з іранскіх, цюркскіх і фіна-угорскіх моў.

Найбольш празрыстыя па сэнсе гідронімы славянскага паходжання. У іх выразна выступае водная семантыка: *Вадзіца, Водка, Дабраводка, Князьвозера*. Але найчасцей адзначаюцца фізіка-геаграфічныя характарыстыкі водных аб'ектаў: асаблівасці плыні *(Быстрыца, Лянівіца)*; характар, нораў ракі, ручая *(Равутка, Равок, Равека, Звінячка, Звонка, Бурчак, Рвач, Глушыца)*; характарыстыка глыбіні (*Глыбачка, Бязодня* 'бяздонная', *Бязводная*); ступень празрыстасці вады *(Святліца, Серабранка, Мутвіца, Гразнуха)*; каляровае адценне вады *(Белая, Белаводка, Беліца, Галубка, Зялёнка, Красніца, Сініца, Чарніца)*; смак вады *(Гаркаватка, Прэсня, Прасніца, Саланая)*; пах вады *(Смуродзіна, Смярдзея, Смярдзюха)*; тэмпература вады *(Цёплая, Талька, Таліца, Студзёнка, Халодная Рэчка)* і іншыя ўласцівасці *(Гнілая Вада, Гнілка, Гніліца, Мёртвая Вада, Жывіца)*; асаблівасці дна і берагоў *(Глеяватка. Глінка, Жарсцвянка, Жвірынка, Каменка, Пяшчанка)*. Многія рэкі названы па прыбярэжнай раслціннасці *(Лясная, Алешня, Беразна, Крапіўня, Лазоўка, Сасновая, Хвашчоўка)* і па іншых адзнаках.

Паводле фізіяграфічных адзнак названы многія беларускія азёры *(Белае, Чырвонае, Чорнае, Глыбокае, Альховае, Дубовае, Лясное, Прорва* 'бяздонне', *Бяздоннае, Кальніца)*; балоты *(Жоўтае Балота, Цёмнае Балота, Чорнае Балота, Чырвоны Брадок* 'з чырвонай ад іржы вадой', *Мочанае Балота, Купаватае Балота, Іржавец, Жуpавіннае Балота, Ліпаўка, Мох, Хвошч)* і іншыя гідрааб'екты.

Пры намінацыі беларускіх балот шырока практыкуецца тапанімічнае пераасэнсаванне разнастайных балотных тэрмінаў, якія абазначаюць: багністыя зыбучыя балоты *(Багма, Сухое Багно, Грузала, Дрыгва, Дрыглец, Зыбель, Крокаць, Мерва, Мярэжа, Непраходзь, Тапіла, Тхлань)*; балоты, парослыя якім-небудзь відам расліннасці (*Алёс, Альса* 'парослае алешнікам', *Асакар* 'парослае асакой', *Асіна, Асовае Балота* 'парослае асіннікам', *Белае Балота, Бель* 'парослае бярэзнікам', *Махавое Балота, Мох, Амшарына* 'парослае імхом'); балота без расліннасці *(Голае Балота, Галае Балота, Гола, Гала)*; гнілое балота *(Гнілое Балота, Гніліца, Гнілуха)*; гарэлае балота *(Выжар, Гары, Пагар, Пажарышча)*.

Нярэдка гідронімы фіксуюць мясцовую фауну *(Бобр, Тур'я, Карасіха, Жабінка, Камароўка, Воўчае Балота, Лісічае Балота)*. Ёсць выпадкі, калі назвы жывёльнага свету, рыб, земнаводных і насякомых трапляюць у гідранімію праз стадыю прозвішча чала-

века або ўласнага імя паселішча. Падставай для з'яўлення назвы можа служыць канфігурацыя аб'екта, яго маштабы, працягласць, памер і інш. (рэкі *Крыўка, Крывая*; азёры *Круглае, Доўгае*; балоты *Папярэчнікі, Шырокі Пас, Круглае Балота, Вялікае Балота*); суседства або сувязі з якім-небудзь іншым геаграфічным аб'ектам (рэчкі *Жыглянка* — працякае каля в. *Жыгляны; Лужаснянка* — каля в. *Лужасна*; азёры *Бабінаўскае* — каля в. *Бабінавічы*; ручай *Янкаўскі* — каля в. *Янкава*; вадасховішчы: *Асіповіцкае* — каля г. *Асіповічы; Вілейскае* — каля г. *Вілейка*; *Мазырскае Балота* — каля *Мазыра; Хатыніцкае Балота* — калісьці належала в. *Хатынічы*; рэчка *Балачанка* — выцякае з балота); прыналежнасць якой-небудзь асобе (возера *Гаціскай, Леанідышанскае Возера, Крыштопаў Ручай, Якубава Балота, Палякова Сажалка, Ясеў Вір*) і інш.

Неславянскія гідронімы вельмі даўнія, сэнс іх глыбока прыхаваны і становіцца зразумелым толькі пры спецыяльным даследаванні. У аснове іх нярэдка ляжаць паняцці «вада», «рака», «возера», «мора». Напрыклад, назвы еўрапейскіх рэк *Дняпро* і *Днепр, Дон, Дунай, Днестр* утрымліваюць іранамоўны элемент *дон, дънь* 'рака, вада'. Гідронімы з «воднай» семантыкай выяўлены на тэрыторыі Літвы і Латвіі (*Упэ, Зілупэ, Ліелупэ* — упіс, упус 'рэчка, ручай'), у эстонскіх і фінскіх назвах азёр часта сустракаецца элемент *-ярв* 'возера' *(Ківіярв, Пікіярв)*, у цюркскіх мовах *тэніз, тэнгіз* 'мора, вялікае возера' *(Тэнгіз, Шаглытэнгіз, Тэніз)*. На прасторах Еўразіі адзначаюцца гідронімы з цюркамоўным элементам *-су* 'вада, рэчка, азярцо, ручай' *(Карасу, Сарысу, Кашкасу, Койсу, Тузтусу, Улусу, Адылсу)*. Сэнс 'вада, рака, возера' мае рад разнамоўных гідранімічных канчаткаў тыпу *-жа (Мажа, Усяжа), -ша (Лоша, Уша), -ма (Волма, Жыжма), -са (Арэса, Лучоса), -та (Раста, Рэкта)* і інш. Упершыню такую думку выказаў А. Х. Вастокаў (артыкул «Задача аматарам этымалогіі», 1812 г.). Пазней яе развіваў А. Я. Багдановіч у кнізе «Мова зямлі. Насельніцтва Верхняга Паволжа, Акі і Камы» (Яраслаўль, 1966). Вывучэнне гэтага пытання працягваецца (А. П. Ванагас, У. М. Тапароў і А. М. Трубачоў, Р. А. Агеева і інш.).

Многія гідронімы захоўваюць у сваім складзе словы, якія даўно выйшлі з ужытку. Іх часам удаецца ўстанавіць па летапісных крыніцах, адшукаць у асобных мясцовых гаворках. Зараз вядома, што гідронім *Чачэра* паходзіць ад слова *чачэра* 'старое рэчышча', *Гвозна, Гвозніца* — ад *гвозд* 'лес, чорны лес', *Клява* — ад балцкага *клевас* 'клён', *Асоўніца* — ад *асовы* 'асінавы', *Крупка* — ад *крупка* 'невялікая рэчка'. Неаднаразова рабіліся спробы растлумачыць паходжанне старажытных гідронімаў *Буг, Вілія, Віцьба, Дзвіна, Дрыса, Друць, Мядзел (Мядзела), Нарач, Нёман, Палік, Проня, Прыпяць, Сож*, аднак ні адна з іх пакуль не завяршылася поспехам.

Гідронімы ўтвараюцца на базе агульнай лексікі. Але слова, пераходзячы ў функцыю гідроніма, часцей за ўсё афармляецца словаўтваральнымі суфіксамі або фармантамі. У беларускай гідраніміі, як і наогул славянскай, пераважаюць суфіксы з элементам *-к- /-ка, -оўка/ -ёўка, -онка /-енка, -анка/ -янка, -інка /-ынка, -ейка, -атка/ -ятка, -ачка /-ячка/* і іншыя: *Бярозка, Каменка, Лютка, Ржаўка, Жарноўка, Малінаўка, Хмелеўка, Кручонка, Палонка, Ігуменка, Альшанка, Руднянка, Бярэзінка, Добрынка, Верамейка, Гарадзейка, Валасатка, Грымячка.* Шматлікія групы гідронімаў на *-іца/-ыца (Крупіца, Пажарніца)*, якія характэрны для ўсіх старых славянскіх тэрыторый, на *-ня/-на (Дражня, Дзясна)*, на *-ь (Бесядзь, Іпуць, Прыпяць)*, у форме поўных і кароткіх прыметнікаў (ручай *Грымучы*, рэкі *Вялікая, Сярэдняя*, азёры *Махавое, Дубна, Сенна, Сухава, Брылёва*). Гідронімы могуць многае расказаць спецыялістам самых розных галін навукі. Па назвах рэк, азёр, балот можна ўстанавіць паклады солі, месца знаходжання былых саляварных промыслаў *(Саляная, Салянка, Салонка)*, адшукаць залежы металаў. Менавіта ў раёне Крамянчугскай магнітнай анамаліі, дзе адкрыты вялікія радовішчы жалеза, выяўлены цэлы арэал «жалезных» гідронімаў тыпу *Жалезенка, Жалязніца, Рудня, Рудзенка, Ржавец*. Па гідронімах можна вызначаць арэалы зніклых відаў раслін, жывёл, птушак, вывучаць геаграфію сучаснай фауны і флоры.

*Літ.:* Топоров В. Н., Трубачев О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962; Никонов В. А. Краткий топонимический словарь. М., 1966; Катонава Е. М. Заходнедзвінская гідранімія на тэрыторыі Беларусі // Пытанні беларускай тапанімікі. Мн., 1970; Попов А. И. Следы времён минувших. Л., 1981; Мурзаев Э. М. Словарь народных географических терминов. М., 1984; Агеева Р. А. Происхождение имён рек и озёр. М., 1985.

*В. П. Лемцюгова.*

## ГІЛЕВІЧ НІЛ СЫМОНАВІЧ



Беларускі паэт, літаратуразнавец, фалькларыст, перакладчык Ніл Сымонавіч Гілевіч нарадзіўся 30 верасня 1931 г. ў в. Слабада Лагойскага раёна Мінскай вобласці. У 1956 г. скончыў БДУ. З 1960 г. працаваў на кафедры беларускай літаратуры БДУ. У 1980—89 гг. першы сакратар праўлення СП БССР, у 1981—91 гг. сакратар праўлення СП СССР. Кандыдат філалагічных навук (1963), прафесар (1978). Народны паэт Беларусі (1991). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). З 1985 г. дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (з 1990 г. старшыня Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны). Намеснік старшыні Савета міжнароднага Фонду славянскага пісьменства і славянскіх культур (з 1989), старшыня рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы (з 1989 г.; у 1990 г. рэдактар яго бюлетэня «Наша слова»). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы за кнігу паэзіі «У добрай згодзе» і перакладчыцкую дзейнасць (1980), Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1986). За мастацкія пераклады ўзнагароджаны балгарскім ордэнам Кірылы і Мяфодзія 1-й ступені (1966) і ордэнам Югаслаўскай зоркі са стужкай (1985).

Н. Гілевіч працяглы час займаўся навукова-даследчай працай: збіраў, сістэматызаваў, усебакова апісваў і вывучаў беларускі фальклор («Наша родная песня», 1968; «З клопатам пра песні народа», 1970; «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», 1975; «Паэтыка беларускіх загадак», 1976, і інш.). З пранікнёнага, удумлівага даследчага падыходу да вуснай народнай творчасці вынікае глыбокая вобразнасць вершаванага радка Гілевіча-паэта, узважанасць і вывераласць мастацкага слова Гілевіча-публіцыста. Паэт неаднаразова ў сваіх творах (ад верша да публіцыстычнага артыкула) звяртае ўвагу на дакладнасць і дарэчнасць ужывання слова ў вершы, на недапушчальнасць легкадумнага перакручвання слоў (артыкулы «Аб рыфмах і хлебе надзённым», «Сто вузлоў памяці» і інш.). У рамане «Родныя дзеці» ён выразна акрэслівае сваю пазіцыю: *Хай буду збэшчаны і скляты, // А свой*

*радок, якім не лгу, // На рагазлівы і дзяркаты // Не прамяняю: не магу! // Ды і нашто ён гэткі ў вершы // І гукаў збег і сказаў стык, // Каб, потырч носам паляцеўшы, // Чытач зламаў сабе язык?*

Значэнне слова для Н. Гілевіча — тая невычэрпная крыніца, якая дазваляе яму заўсёды мець свежы паэтычны радок. У адным вершы ён тройчы ўжывае дзеяслоў *спяшацца* ў прамым і пераносным значэннях: ***Спяшаецца*** *ўдалеч // Стары беларускі бальшак. //* ***Спяшаюцца*** *людзі, //* ***Спяшаецца*** *век-непаседа* («Бальшак»), у другім своеасабліва спалучае семантыку двух мнагазначных дзеясловаў *чарнець* і *ўчарнець:* ***Чарней, чарней,*** *сястра мая дубровенька, // Абое мы напроць зімы* ***ўчарнелі:*** *// Ты па сваім лісці, сястрадуброванька, // А я — па лецейках, што адшумелі* («Балгарская песня»). Прамое і пераноснае значэнні ў творах Гілевіча іншы раз проціпастаўляюцца, тады наступнае, паўторнае ўжыванне слова ўспрымаецца як прычына ці вынік: ***Не сыпнуў*** *я зярнят у раллю — не дажадайся я свята: // Вораг кулямі ў грудзі мне густа* ***сыпнуў*** *з аўтамата* («Голас сейбіта»); ***Ад полымя слова да полымя стронцыя*** *// Адлегласць бясконцай нам трэба зрабіць* («Ці дзень, а ці вечар...»).

Звыклыя для ўспрымання словы ў кантэксце Н. Гілевіча вельмі часта гучаць па-новаму, здзіўляюць нечаканым спалучэннем: *Толькі не блытайце* ***цацку*** *з душой! //* ***Цацкаць*** *душу — небяспечна. // Сцацкаеш цацку — заменіш другой, // А сцацкаў душу — то навечна!* («Купіце дзіцяці цацку»); *Шаманы прабірак, шаманы пяра, // Шаманы трыбун і мастацтваў... // Давайце ж паможам — хіба не пара? — // Шаманам з шаманствам расстацца!* («Шаманы»).

Паэт удала скарыстоўвае ўнутраныя і знешнія сувязі слоў — назваў прадметаў, з'яў, працэсаў: *А двор мычаў, і рохкаў, і кудахтаў, // І гагаў, і брахаў — на ўсе бакі* («Былая сядзіба асадніка»); *За дабрыню, што ў вочы біла, // За спрыт-старанне памагчы // — Бальніца Крысцю палюбіла: // І ўся абслуга, і ўрачы* («Родныя дзеці»).

Часам мову твораў Н. Гілевіча ўпрыгожвае сінекдаха — перанос назвы з аднаго прадмета на другі на аснове колькасных паказчыкаў: *Ніхто не мучыцца дакорам. // Ніхто не думае пра грэх, // І ўжо не стане ягад скора, // Звядуцца* ***жолуд і арэх*** («Родныя дзеці»); *Ды ў нас жа вядаюць і дзеці // Нашто мянташыць языком? // Закон — для* ***Васі, Вані, Пеці,*** *// А я — я сам сабе закон* («Царок»). Пры ўжыванні форм множнага ліку замест адзіночнага назоўнікі набываюць адцягненае неканкрэтнае значэнне: *Не дачакаўшыся сыноў адтуль — // З вайны вялікай, з прорвы апраметнай, // Сышлі ў магілу тысячы матуль — //* ***Марыль, Парасак, Кацярын, Настуль*** *— // Сышлі звычайна, ціха, непрыкметна* («Не дачакаўшыся сыноў адтуль...»).

Адказнае стаўленне паэта да слова ў вершаваным тэксце праяўляецца і ва ўжыванні аманімічных слоў: *Якая дзіўная краіна! — // Пісала госціца адна: — // І да Бабруйска — скрозь раўніна, // І за Бабруйскам —* ***раўні́на...*** *// Перапрашаю госцю вельмі // — Удакладніць належыць тэкст: // Хоць* ***раўні́на*** *— ды не пустэльня, // Хоць і раўніна — ды не стэп!* («Родныя дзеці»). На выкарыстанні розных відаў амонімаў грунтуецца цэлая нізка вершаў, сабраных пад назвай «Карацелькі-каламбуры». Танальнасць іх лёгкая, гумарыстычная, жартаўліва-павучальнаму зместу спрыяе ўжыванне амографаў (*Барсукі ў глыб* ***нары,*** *// Баючыся* ***кары,*** *// Нацягалі шмат* ***кары*** *// І зрабілі* ***нары***), амафонаў (*Мяне выправіла* ***Дар'я*** *— // Вам піва прынёс у* ***дар я:*** *// Каб быў тонус ваш* ***высокі*** *— // Піце, дзетачкі,* ***вы сокі,*** *// А дзядам каля* ***парогу*** *// Я налью віна* ***па рогу!***) або адначасова амографаў і амафонаў (*Хоць віном, а не* ***вадзіцай*** *// Поіш мяне, сваціца,— // Не хачу з табой* ***вадзіцца,*** *// Бо ты любіш* ***ва́дзіцца;*** *Неяк раз са дна* ***ракі*** *// Падняліся ў* ***неба ракі.*** *// Вецер здзёр* ***андаракі*** *— // І памёрзлі* ***небаракі***).

Вершаваны радок Н. Гілевіча някідкі, паэт карыстаецца звычайнымі словамі і формамі, аднак сэнс іх надзвычай багаты. У значнай ступені гэта дасягаецца за кошт выкарыстання сінонімаў: *Страціў слова, страціў спадчыннае слова — // Штосьці страціў у душы абавязкова! // Можа — годнасці хоць* ***кропельку*** *малую? // Можа — мудрасці хоць* ***дробачку*** *якую? // Можа — памяці хоць* ***зернятка-іскрынку?*** *// Можа — праўды хоць* ***пылінку-парушынку?*** *// Я не ведаю дакладна, што ты страціў. // Запытайся — ці не скажа табе маці...* («Страціў слова...»). Сінонімы ў гэтым вершы аб'ядноўваюцца агульным значэннем 'самая малая колькасць чаго-небудзь': *кропелька, дробачка, зернятка-іскрынка, пылінка-парушынка* і спалучаюцца з назоўнікамі, якія абазначаюць агульначалавечыя маральна-этычныя паняцці: *годнасць, мудрасць, памяць, праўда.*

Іншы раз слова ў вершах Гілевіча набывае новае значэнне, якое па пэўных асацыятыўных сувязях суадносіцца з сэнсам другога, добра вядомага, уступаючы з ім у сінанімічныя адносіны: *Ідзе жанчына — асцярожна // Ва ўсёй красе. // Неасцярожна — ёй няможна: //* ***Жыццё нясе!*** («Ідзе жанчына...»).

У творах Гілевіча блізкую семантыку набываюць словы, якія па-за кантэкстам не заўсёды выражаюць сінанімічныя адносіны: *Застолле ўраз павесялела, // Настрой і тонус набыло — //* ***Загаманіла, зазвінела,*** *//* ***Забразгатала, загуло*** («Родныя дзеці»). Дзеясловы ў гэтым чатырохрадкоўі аб'ядноўваюцца семай 'утвараць шум'. У вершы «Замірае, сціхае...» агульным значэннем красавання жыцця аб'ядноўваюцца сэнсава розныя дзеясловы: *А нядаўна ж яшчэ — // Напачатку нядоўгага лета — // Што рабілася тут, // Што за дзіўнае свята было! // Як усё* ***бушавала,*** *//* ***Буяла*** *лістотай і цветам, // Як усё* ***гаманіла,*** *//* ***Спявала,*** *//* ***Гукала,*** *//* ***Гуло!***

Характарызуючы падзеі, з'явы, прадметы, паняцці, паэт ужывае і словы з процілеглай семантыкай — антонімы: *Ісціна, адвечная як свет: //* ***Шчасце*** *ходзіць толькі ў пары з* ***горам.*** *// За* ***надзеяй*** *— боль* ***знявеpу*** *ўслед. // За* ***пашанай — прыніжэння*** *сорам, // За* ***святлом знаходкі*** *—* ***горыч страты,*** *// За* ***агнём любві*** *—* ***разлукі снег*** *// За* ***абдымкамі*** *— падножка* ***здрады.*** («Ісціна...»). Складанасць і супярэчлівасць жыцця тут выражана праз кантрастнае процістаўленне паняццяў, што абазначаюць станоўчае і адмоўнае: *шчасце — гора, надзея — знявер, пашана — прыніжэнне, святло — горыч, знаходка — страта, агонь — снег, любоў — разлука, абдымкі — здрада.*

Спалучаючы часам лагічна несумяшчальныя паняцці, паэт дасягае эфекту нечаканасці: *А найчасцей перад вачыма // З'яўляўся даўні эпізод: //* ***Ушчэнт шчаслівая*** *дзяўчына // На вулку выбегла з варот* («Родныя дзеці»).

Актыўна выкарыстоўвае Н. Гілевіч стылістычны прыём замены слоў ці выразаў, якія выклікаюць непажаданыя эмоцыі. Напрыклад, пра чалавека пенсіённага ўзросту сказана: *Ці ты яшчэ ўсё на пасадзе, // Ці ты* ***ўжо корміш галубоў*** («А тады ўжо і я»). А ў яго сатырычных творах эўфемізмы маюць выразную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку: *Цябе з* ***салаўём*** *параўналі, і я // Хвалебную ноту не смею парушыць: // Папраўдзе, пяеш ты не горш* ***салаўя...*** *//* ***Таго, што кабылу ў бярэзніку душыць*** («Аднаму «пекнагалосаму»).

Лексіка твораў Н. Гілевіча ў аснове сваёй спрадвечна-беларуская. У вершах, прысвечаных Балгарыі і Югаславіі, мясцовы каларыт перадаюць запазычанні: тапонімы *Дунай, Добруджа, Радопы, Віташа, Слівен, Тырнава*; імёны *Расіца, Петыр*; экзатызмы: *ку́керы* 'старажытны язычніцкі абрад з пераапрананнем', *ракія* 'гарэлка', *брынза, таратор* 'страва са свежых агуркоў, часнаку і арэхаў на вадзе ці сыраквашы', *шкембе́-чарба́* 'суп з рубца', *ба́ніца* 'слаёны пірог з вельмі тонка раскачаных лістоў цеста' і інш.

Лексіка паўднёваславянскіх моў у вершах Н. Гілевіча спалучаецца з лексічнымі адзінкамі беларускай мовы



**Аўтограф верша Н. Гілевіча «Тут, між гэтых пагоркаў».**

арганічна і натуральна. Празмернае захапленне запазычанымі словамі паэт дасціпна высмейвае: *Бывае, выйдзеш вутрам з хаты — // Так благавухае сярэнь — // Аж нос зрываюць араматы! // Здаецца б, нюхаў цэлы дзень!* («Родныя дзеці»). Паэт засцерагае і ад негатыўных адносін да мовы роднай: *Вінцусь тыраду ледзь даслухаў: // А я на гэта вам скажу: // Народ не цэніць* ***благавухаў.*** [...] *Крыху няёмка стала Лёдзі — // Аж злосць мільгнула на губе: // — Ну, муж, калі б не пры народзе — // Ой,* ***благавухнула*** *б табе!..* («Родныя дзеці»).

Сутыкненнем семантыкі блізкіх па гучанні слоў, адно з якіх — беларускае, а другое — запазычанае, Гілевіч стварае камічны эфект: *Адам як* ***даў*** *нагой* ***пад рэтра*** [...] *// — А што такое* ***рэтра,*** *дзядзька? // Спытала Лёдзя назнарок. // — Ды я і сам не вельмі петру, // Але цяпер кругом і скрозь // Адно і чуеш:* ***рэтра, рэтра,*** *// Дык, мабыць, гэта* ***рэтра*** *й ёсць!* («Родныя дзеці»).

У вершах Н. Гілевіча шмат слоў і форм з мясцовых гаворак, якія не заўсёды даюцца ў нарматыўных даведніках.

Сярод дыялектызмаў у творах Н. Гілевіча найбольш лексічных (*пякóлак* 'цёплае месца на печы'; *старлы́біна* 'пра старога чалавека'; *вóбаратнік* 'лекавая расліна', *асвéр* 'журавель калодзежа', *пыляня* 'кураня', *плітавáць* 'бегчы', *удýкрыць* 'вырашыць', *наўрэ́цца* 'нечакана паявіцца', *зды́рдзіцца* 'пражыць жыццё, памерці'), семантычных (*заложнік* 'невялікая палічка ці шафка для посуду', *выстава* 'выгляд'), граматычных (*думацьме, не хапацьме, хавайимася*).

Паэт актыўна шукае сродкі і прыёмы абнаўлення знешняй і ўнутранай формы слова: *У нас звычайна па назвах дзён // Давалі каровам клічкі. // Калі ў панядзелак убачыла свет — // Клічка была* ***Панядзёха.*** *// За панядзелкам аўторак услед, // Значыць, ужо —* ***Аўтарэня,*** *// Калі ў сераду —* ***Серадуля,*** *// Калі ж у чацвер —* ***Чацвярэня,*** *// А ў пятніцу — дык* ***Пецярэня,*** *// Калі ж у суботу —* ***Субоня.*** *// Наша ў нядзелю зірнула на свет — // Наша была* ***Недзяленя*** («Недзяленя»).

Да індывідуальна-стылістычных неалагізмаў Н. Гілевіча можна аднесці шэраг назоўнікаў (*суцемак* 'позні вечар', *гаратлівец* 'гаротнік', *папрасімец* 'жабрак' і інш.) і дзеясловаў (*уцемрыць* 'сцямнець', *драпежыць* 'нішчыць', *до-рэ-мі-фа-со-ліць* 'музыцыраваць' і інш.).

Значнае месца ў мове твораў Н. Гілевіча займаюць складаныя і складанаскарочаныя словы, шмат з якіх аўтарскія наватворы. Гэта складаныя назоўнікі з выразнай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай: *крывасмокі-людажэрцы, жывагло́ты, смехатворац, ліхадзей, пагромшчык-крывасос, пустапляс,* таварыш *Ненаежац* [*Са* ***сліваносымі*** *адразу // Знайшоў агульны інтарэс* («Як я ўцягнуўся»); *Ды гэта ўсё мухі сезону — // Ад мая да слоты асенняй. //* ***Двухногія мухаперсоны*** *// Страшней за крылатых стварэнняў* («Назойлівыя мухі»); Ж ы т к е в і ч. *Ды не! Проста так.* ***Шалахвост*** *ён. Бацька быў чалавек што трэба. А сын —* ***крутадухнейкі*** («Начлег на буслянцы»)]; складаныя прыметнікі ў функцыі азначэння: *злачынна-шкодны тып, застрахавана-ўтульная звыкласць, асірочана-грозны птах, роспачна-радаснай вясны, бульбяна-жытны край; мнагатомныя, мнагатонныя, манатонныя эпапеі; парфіраносныя ілбы* [*Усё наважый зжэрці, знішчыць — // Без сантыментаў, лішніх слоў — //* ***Мільёнавокі*** *паляўнічы, //* ***Мільёнарукі*** *рыбалоў* («Родныя дзеці»); *І не паможа мне ні гэты ўкрадлівы, //* ***Напеўна-ціхі*** *дожджык шапатлівы, // Ні гэты морак,* ***ласкава-спагадлівы,*** *// Ні гэты пах,* ***дурманліва-п'янлівы...*** («А дзе ж тая крынічанька»); *Не звініць і не льецца //* ***Раздольна-вячыстая мова,*** *// Толькі шоргат сухі пад нагамі, // Як скарга-дакор* («Замірае»)].

Сярод наватвораў паэта арыгінальныя ласкальна-памяншальныя формы, якія найчасцей ужываюцца ў творах, адрасаваных дзецям: *паслухмяначка* 'дачушка', *дачушаччын ложак, падасінавічачкі* і інш. Такія формы могуць ужывацца і як стылістычны сродак індывідуалізацыі мовы: *Вялікі* ***дзякуйчык*** *вам, шчыры* ***дзякуйчык!; Нічогачка*** *вам, не скажу!* ***Нічогачка!*** (п'еса «Формула іржавіны»).

Жанравая і тэматычная разнастайнасць твораў дае пісьменніку багатыя магчымасці для выкарыстання ўстойлівых словазлучэнняў. Для структурнага і семантычнага абнаўлення тэксту Н. Гілевіч паслабляе часам цэласнасць устойлівай адзінкі уключэннем у яе слоў, якія звычайна канкрэтызуюць адзін з кампанентаў: *Можа быць, што і ўдасца // Зрабіць чалавека з яго ў грамадзе — //* ***Калі хто з тропу*** *з у с і м* ***не звядзе*** («Расказ службовага шафёра»); *Вялікая ў свеце была вайна. // І ў свеце, і ў нас на Гайне //* ***Перакуліла*** *а д р а з у я н а // Усё* ***дагары нагамі*** («Недзяленя»); *Паўвека я ўжо назіраю // (Пра гэта зло не піша друк!), // Як лепшых хлопцаў* ***прыбірае*** *// М я ш ч а н с т в а  х ц і в а е* ***да рук!*** («Родныя дзеці»). У невялікім кантэксце паэт часам ужывае фразеалагізмы з процілеглым значэннем: ***У вочы*** *звалі «паважаным», //* ***За вочы*** *— тыя ж языкі // Маглі назваць і «Абіззянам», // Ого, як могуць землякі* («Родныя дзеці»).

Своеасаблівы стылістычны эфект у творах паэта дае сутыкненне, накладванне значэнняў фразеалагізма і сугучнага словазлучэння: *Як ён грозна кіраваў! // Як вучыў-патрабаваў // А як* ***пальцам*** *ён* ***ківаў!*** *// А ўжо як* ***пад дых*** *даваў! // Божа ты мой мілы!* («Божа ты мой...»), а таксама прыём актуалізацыі фразеалагічнага кампанента; *І г а р л а п а н ю* ***на ўсё горла,*** *// А* ***горла*** *моцнае ў мяне: // Калі б была на лямант норма — // Па тры даваў бы я ўпаўне* («Гарлапан»). Ужыванне ў вузкім кантэксце некалькіх устойлівых адзінак кандэнсуе іх семантыку, каламбурна сутыкае сугучныя кампаненты: ***На ўсе шаснаццаць*** *— гаспадыня: // І ткаць — сама, і шыць, і мыць, // І ўжо* ***біткам набіта*** *скрыня — // Пасаг дадзім —* ***як мае быць*** («Родныя дзеці»); *Ох і рвач! Ні кроку без рахубы! //* ***Так і шчэрыць  н а  р у б е л ь  м о й  л я п у*** *// Ох, не сцярплю! Ох, і* ***дам у зубы!..*** *// Охаў, охаў так — і* ***даў... у лапу!*** («Змагар»).

Фразеалагізмы ў мове твораў Н. Гілевіча вызначаюцца багатай варыянтнасцю: *воч (веек) не звесці; прыйшло (набегла) у галаву;* на *ражон лезці (перціся); мазгі мазоліць (трудзіць);* на ***зубкі*** *пальца не кладзі; справіць ла-та-та; не адшукаць і днём з агнём; як з неба гром без аблачка.*

Шырока ўжываецца ў вершах Н. Гілевіча характэрны для народна-паэтычных твораў прыём паўтору. Гэта паўтор прыназоўнікаў: *на сцежцы на юначай, на тваe на ножкі, на цябе на адну, па звычцы па старой, па ўсім па краі, у зямлі у сырой, у хаце у сваёй, пра мінулы пра далёкі час, да каханай, да прыгожай, за свет за белы* і інш.

Паўтор часцін мовы суправаджаецца паўторам аднатыпных слоў, злучнікаў, сінтаксічных канструкцый: *Я хаджу, закаханы // У твае краявіды, // І шапцу як прызнанне: // О, мой край дарагі! // Зноў нясу табе ў споведзь: //* ***І трывогі, і крыўды,*** *//* ***І надзеі, і ўцехі,*** *//* ***І любоў, і грахі...*** («Я хаджу, закаханы»);

*А ў песні чуўся* ***то*** *лагодны плёскат, // **То** ўздых цяжкі, **то** жаласлівы ўсхліп, // **То** посвіст ветру, **то** гамонка вёсак, // **То** шум бароў, **то** ціхі шэлест ліп* («Нарач»); *І ў лесе кашлатым // Гуляюць сябры. // Дзе спеюць суніцы, // Дзе свішчуць чыжы, // Дзе звоняць крыніцы // Лясныя ў цішы, // Дзе хвоі-сасонкі // Узносяцца ўверх, // — Там чуецца звонкі // І радасны смех* («Сцяжок на мачце»).

Адной з сінтаксічных асаблівасцей мовы твораў Н. Гілевіча з'яўляецца частае ўжыванне прыдаткаў: *казка-песня, век-непаседа, душа-барометр, вятры-валацугі, вар'ят-век, чынушахам, скупеча-бог* [*Тым часам* ***песня-навасёлка*** *// Пайшла гуляць па цаліне* («Родныя дзеці»); *Адкрый мне скарб, які хачу: // Дзівосны скарб — душу людскую, // Дзе выспявае* ***праўда-боль*** *// У* ***праўду-радасць*** (тамсама)].

Зваротак у форме клічнага склону назоўніка (*браце, дружа-браце, хлопча, зямляча, шаноўны дружа, мой сыне, браце мой, Іване*) надае радкам паэта свежасць, нязмушанасць: *Сама гісторыя вучыла: // Шануй,* ***народзе,*** *і цані,— // Усё, што поіць-жывіць шчыра // Тваёй свабоды карані* («Родныя дзеці»).

Параўнанне часцей за ўсё ўводзіцца ў канву мастацкага твора злучнікамі: *Першы гром быў сёння ўночы. // Дождж да дня шумеў вясёла. // Ранак вытарашчыў вочы, //* ***Як дзіця,*** *глядзіць наўкола* («Свята зямлі»), часам ужываюцца некалькі параўнанняў: *Лёгкая,* ***як воблачка,*** *//* ***Як прыпеўка ў песеньцы,*** *// У бліскучых лодачках // Збегла ўніз па лесвіцы* («Лёгкая, як воблачка...»). Структура параўнання ў мове твораў Н. Гілевіча самая розная: ад двухслоўных канструкцый да разгорнутых вобразна-асацыятыўных малюнкаў, дзе немалаважную ролю адыгрывае інтанацыя: *Душа паэта — то ж рэактар вечны, // Што выпраменьвае часціцы болю* («Актавы»).

Разгорнутыя зрокава-гукавыя асацыяцыі параўнанняў ужываюцца ў мове твораў, адрасаваных дзецям: *Хлапчучок-баравічок, // Буры капялюшык, // Ледзьве вылез малышок // На святло з пялюшак* («Дождж-грыбасей»). Н. Гілевіч па-майстэрску ствapae загадкі, часам, паводле фальклорнай традыцыі, цалкам заснаваныя на параўнанні: *Бычок крутарогі // Ідзе без дарогі. // У лесе не трэсне, // На плёсе не ўсплёсне, // Праз возера скочыць — // Капыткоў не памочыць* («Маладзік»).

Адметнасць мовы твораў Н. Гілевіча праяўляецца ва ўсім — у дакладным, добра ўзважаным словаўжыванні, у глыбокім разуменні і адчуванні сэнсавай нагрузкі моўных адзінак, ва ўменні звычайнымі сродкамі ствараць арыгінальны мастацкі вобраз.

У шматлікіх артыкулах, выступленнях перад самай рознай аўдыторыяй Н. Гілевіч актыўна адстойвае правы роднай мовы на дзяржаўнасць, на яе выкарыстанне ва ўсіх сферах жыцця нацыі: «Мова навучання — гэта не тое, што трэба выбіраць, што можна хацець або не хацець. Мова — гэта Мова, гэта — аснова ўсёй вучобы і выхавання. Вучыцца на роднай мове — не толькі права, але і абавязак кожнага маленькага грамадзяніна рэспублікі» (Гілевіч Н. Між былым і наступным // Гілевіч Н. Вяртанне і працяг. Мн., 1990. С. 28).

Н. Гілевіч падкрэслівае першаступенную, галоўную ролю беларускай мовы ў працэсе адраджэння нацыянальнай культуры, перасцерагае, што «збяднене і затым атрафія роднай мовы непазбежна вядуць да адміранне нацыянальных традыцый і ўсёй духоўнай творчасці нацыі ў цэлым; у выніку — дэградацыя культуры наогул, і, значыць, маральная дэградацыя народа» (Ягож. Родная мова // Тамсама. С. 215).

У артыкуле «Клопат пра мову — клопат пра будучыню нацыі» пісьменнік адзначае, што наша мова «яшчэ ўся ў будучыні. Яе жыццёвыя сілы — неадольныя, яе вытокі-крыніцы — невычэрпныя, яе творчыя магчымасці — невымерныя. Яе здольнасць да словаўтварэння, да самаабнаўлення наогул — незвычайная. Яе лексічныя і фразеалагічныя скарбы — не сабраныя і не апытаныя нават — незлічоныя» (тамсама. С. 266). Вера паэта ў жыццёвасць роднай мовы грунтуецца на глыбокім веданні народных моўных традыцый, на асабістай грамадзянскай пазіцыі.

Н. Гілевіч быў кіраўніком рабочай групы па выпрацоўцы закону «Аб мовах у Беларускай ССР» (зацверджаны 2.6.1990).

Ніколі не здрадзіў паэт свайму паэтычнаму крэда саракавых гадоў: *А задумае вораг з чужога далёкага краю // Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю — // Не дазволю. // Не дам. // Не прадам. // Не змяняю. // І да смерці за волю яе пастаю* («Родная мова», пазней — «Першая клятва»).

*Тв.:* Акрыленая рэвалюцыяй. Мн., 1962;Валадар роднага слова // Удзячнасць і абавязак. Мн., 1982; Мой белы дзень. Мн., 1992; Покліч жыцця і часу. Мн., 1983; Выбар. Мн., 1993.

*Літ.:* Гарэлік Л. З вераю ў роднае слова: (Творчы партрэт Ніла Гілевіча // Бел. мова і літ. ў школе. 1990. № 9; Гаўрук Ю. Чытаючы Ніла Гілевіча // Ступень адказнасці. Мн., 1986; Каваленка В. Паэзія глыбокай веры // Гілевіч Н. Выбр. тв. Мн., 1981. Т. 1; Ламека Л. Радок чысціні світальнай // Маладосць. 1991. № 9; Сіненка Г. Д. Ніл Гілевіч: Нарыс творчасці. Мн., 1981.

*М. М. Аляхновіч.*

## ГІСТАРЫЧНАЯ ГРАМАТЫКА

Гістарычная граматыка — лінгвістычная дысцыпліна, якая вывучае паходжанне асобнай жывой мовы і змены, што адбываюцца ў сістэме гукаў, форм, сінтаксічных канструкцый і ў лексічным складзе на працягу розных гістарычных эпох яе развіцця. У практыцы выкладання ў ВНУ курс гістарычнай граматыкі складаецца, як правіла, з раздзелаў гістарычнай фанетыкі, гістарычнай марфалогіі і гістарычнага сінтаксісу. Традыцыйны для айчыннага мовазнаўства тэрмін «гістарычная граматыка» не адпавядае поўнасцю зместу гэтага паняцця, бо фанетыка, як вядома, не з'яўляецца часткай граматыкі.

Галоўнымі крыніцамі гістарычнага вывучэння мовы з'яўляюцца пісьмовыя помнікі, а таксама сучасныя народныя гаворкі, якія часта адлюстроўваюць архаічныя моўныя рысы. Значную ролю ў распрацоўцы пытанняў гістарычнага развіцця мовы адыгрываюць факты сучаснай літаратурнай мовы, а таксама факты родных моў і іх дыялектаў. Вялікае значэнне маюць даныя анамастыкі, тапанімікі, гідранімікі, антрапанімікі, бо гэтыя лексічныя пласты часта захоўваюць старажытныя карані слоў або словаўтваральныя мадэлі, невядомыя сучаснай мове.

Гістарычная граматыка дае магчымасць даведацца не толькі пра гістарычнае мінулае якой-небудзь мовы,




**Ф. Янкоўскі. «Гістарычная граматыка беларускай мовы». Ч. І. (вокладка). 1974.**




**А. Булыка, А. Жураўскі, І. Крамко. «Гістарычная марфалогія беларускай мовы» (вокладка). 1979.**

але і вызначыць як заканамернасці тыя рысы яе сістэмы, якія на сучасным этапе маюць характар не заканамернасцей, а адхіленняў ад іх. Так, беларускай мове вядома выпадзенне каранёвых галосных [о], [э] у формах ускосных склонаў назоўнікаў *сон — сну, лён — ільну*. Але гэта адбываецца не заўсёды: *конь — каня, бег — бегу*. Толькі звярнуўшыся да гісторыі гукаў [о], [э], якія ў адных марфемах узыходзяць да рэдукаваных [ъ], [ь], а ў другіх — да спрадвечных [о], [э], можна растлумачыць гэтую з'яву.

Своеасаблівым граматычным парадоксам з'яўляецца адсутнасць у дзеясловах прошлага часу граматычнай катэгорыі асобы і змяненне гэтых форм у залежнасці ад граматычнага роду: *я чытаў, вучань чытаў, дзяўчынка чытала*. Гэтая асаблівасць беларускай мовы (а таксама іншых усходнеславянскіх моў) становіцца зразумелай, калі ўлічыць, што сучасныя формы прошлага часу паходзяць ад форм дзеепрыметнікаў з суфіксам *-л*, якія ў спалучэнні з дзеясловам-звязкай утваралі складаныя формы старажытнарускага перфекта: 1-я асоба — *есмь читалъ*, 2-я асоба — *еси читалъ* і г. д. У выніку страты перфектам дзеяслова-звязкі сучасныя дзеясловы прошлага часу не маюць здольнасці выражаць граматычную катэгорыю асобы ўласнымі формамі.

Вельмі важна і тое, што вывучэнне гістарычнай граматыкі дае магчымасць прадставіць сістэму мовы ў сувязі з гісторыяй яе ўзнікнення і фарміравання. Для беларускай мовы, якая стварылася на аснове старажытнарускай або агульнаўсходнеславянскай, характэрны моўныя рысы, агульныя для ўсіх усходнеславянскіх моў (у адрозненне ад заходне- і паўднёваславянскіх). Гэта поўнагалоссе *(салодкі, бераг, горад)*, спалучэнне *ро, ло* ў пачатку слова *(локаць)*, гукі [ч], [ж] на месцы старажытных спалучэнняў гукаў [т], [д] з ётам *(хачу, агароджа)*, гукі [о], [ja] у пачатку слова (*о* не пад націскам перайшло ў *а*: *адзін, ягня*; стараславянскае *єдинъ, агнѧ)*.

Характэрнымі асаблівасцямі беларускай мовы сталі і некаторыя з тых дыялектных рыс, якія былі ўласцівы старажытнарускай мове яшчэ з дапісьмовай эпохі (і пра якія даведаліся па іх адлюстраванні ў самых старажытных помніках Кіеўскай Русі, а таксама на аснове вывучэння сучасных усходнеславянскіх моў і дыялектаў). Гэта вымаўленне |г| фрыкатыўнага і |в| білабіяльнага, блізкага да |ў| кароткага.

Спецыфічныя для беларускай мовы з'явы складваліся на працягу 12—13 ст. у эпоху паглыблення дыялектнага члянення старажытнарускай мовы пад уздзеяннем унутрыпалітычных і знешнепалітычных фактараў гісторыі Кіеўскай Русі. З гэтым перыядам звязаны неаднолькавыя вынікі галоўнага фанетычнага працэсу старажытнарускай мовы — падзення рэдукаваных галосных. На гэтым гістарычным этапе станаўлення беларускай мовы складваліся і такія рысы, як з'яўленне чаргаванняў *ро /ры, ле(ля)/лі* ў каранёвых марфемах на месцы старажытных спалучэнняў плаўных [р], [л] з рэдукаванымі *(гром — грымець, бляск — бліщчэць* у адпаведнасці са старажытнарускімі марфемамі *гръм-, бльск-*); вымаўленне [ы], [і] на месцы рэдукаваных у некаторых групах іменных і дзеяслоўных форм: у формах прыметнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку *(малады, глухі)*, у формах дзеясловаў цяперашняга часу і загаднага ладу *(мыю, шыю, бі, пі)*; падаўжэнне зычных у былых спалучэннях зычных з ётам *(насенне, зелле, жыццё)*. У беларускай мове эпохі стварэння беларускай народнасці адбываліся істотныя фанетычныя змены, непасрэдна не звязаныя з працэсам падзення рэдукаваных. Так, мяккія [д'], [т'] перажывалі далейшае змякчэнне, у выніку чаго на іх месцы развіліся мяккія афрыкаты [дз'], [ц']: *людзі, мець*, што і складае такую характэрную рысу сучаснага беларускага кансанантызму, як дзеканне і цеканне. Тады ж выявіліся розныя вынікі функцыяніравання іменных і дзеяслоўных форм з асновай на заднеязычныя: у адрозненне ад паўночнаўсходніх старажытнарускіх дыялектаў у дыялектах захаду, якія ляглі ў аснову беларускай мовы, замацавалася чаргаванне заднеязычных са свісцячымі і шыпячымі *(на руцэ, памажы)*.

Шэраг беларускіх моўных асаблівасцей (у параўнанні з іншымі ўсходнеславянскімі мовамі) тлумачыцца тым, што ў эпоху іх развіцця беларуская мова існавала ўжо як самастойная моўная сістэма. Іменна ў гэты перыяд адбывалася уніфікацыя канчаткаў *-ы, -і* як канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду ў назоўным склоне множнага ліку (у рускай мове ўсталяваліся канчаткі *-а, -ы, -и*: *гарады, дубы, коні — города, дубы, кони*); своеасаблівае развіццё атрымала катэгорыя адушаўлёнасці, якая ў адрозненне ад рускай мовы пашыралася на назвы жывёл непаслядоўна (у беларускіх дыялектах — *пасвіць каровы*), зацвердзілася форма даўнамінулага часу дзеясловаў *(былі пайшлі)*, якая ў рускай мове была страчана, і інш.

Гістарычная граматыка і гісторыя літаратурнай мовы складаюць асобны раздзел мовазнаўчай навукі — гісторыю мовы.

*Літ.:* Булыка А. М., Жураўскі А. І., Крамко І. І. Гістарычная марфалогія беларускай мовы. Мн., 1979; Нарысы па гісторыі беларускай мовы. Мн., 1957; Янкоўскі Ф. М. Гістарычная граматыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1989; Янович Е. И. Историческая грамматика русского языка. Мн., 1986.

*А. І. Яновіч.*

## ГІСТАРЫЧНАЯ ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ

Гістарычная дыялекталогія — гэта гісторыя мовы ў яе дыялектна-арэальнай разнастайнасці. Яна даследуе гісторыю як асобных моўных з'яў, так і моўна-дыялектнага ландшафту пэўнай мовы, роднасных моў, а таксама асобных рэгіёнаў.

Крыніцамі гістарычнай дыялекталогіі з'яўляюцца дадзеныя сучасных гаворак у лінгвагеаграфічным плане, пісьмовыя крыніцы ранейшых эпох, тапанімія, гідранімія, антрапанімія, а таксама звесткі па гісторыі краю і народа.

Навуковае даследаванне беларускай мовы, у прыватнасці беларускіх народных гаворак і сярэдневяковых пісьмовых помнікаў, пачалося ў першай чвэрці 19 ст. Першае, на што была звернута ўвага даследчыкаў,— гэта наяўнасць комплексу моўна-дыялектных рыс, характэрных для беларускага арэала, які проціпастаўляецца адпаведным комплексам суседніх усходнеславянскіх арэалаў. Першапачаткова беларускі моўна-дыялектны арэал тлумачылі па-рознаму: адны даследчыкі лічылі яго асобнай усходнеславянскай мовай (Надзеждзін М. І.— 1837, Максімовіч М. А.— 1839, Ян Чачот — 1846 і інш.), другія — асобнай мовай, блізкай да заходнеславянскіх моў (Ліндэ С. Б.— 1816), трэція — асобным дыялектам рускай мовы ці дыялектам паўднёвавялікарускага «наречия» рускай мовы (Сразнеўскі І. І.— 1850, Патабня А. А.— 1865, Сабалеўскі А. І.— 1897 і інш.), чацвёртыя — дыялектам укра-

інскай мовы (Аганоўскі А.— 1880), пятыя — дыялектам польскай мовы і г. д. Беларускі моўна-дыялектны арэал, на думку даследчыкаў 19 — пачатку 20 ст., ахопліваў большую частку тэрыторыі сучаснай Беларусі (акрамя паўднёвых раёнаў Брэсцкай вобласці), а таксама сумежныя рэгіёны Расійскай Федэрацыі (паўднёвая Пскоўшчына, цэнтральная і заходняя Смаленшчына, заходняя Браншчына), Украіны (паўночныя раёны Чарнігаўшчыны), Літвы, Латвіі, Польшчы (Беласточчына). Гэта так званы традыцыйны арэал беларускай мовы. Ён адлюстроўвае старадаўні стан яе пашырэння. Змены арэала, якія адбыліся ў 20 ст., з'яўляюцца вынікам неаднолькавага гістарычнага лёсу яго асобных частак, міжмоўных і міждыялектных кантактаў, уздзеяння літаратурных моў, змены дыялектнай, моўнай і этнічнай арыентацыі і інш. Навуковае даследаванне праблемы групоўкі беларускіх народных гаворак пачалося ў другой палове 19 ст. Сучасны стан яе вырашэння дае наступны малюнак дыялектнага ландшафту Беларусі. У першую чаргу проціпастаўляюцца заходнепалескія (брэсцка-пінскія) гаворкі асноўнаму дыялектнаму масіву беларускай мовы. Апошні ж падзяляецца на паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты. Вылучаюцца таксама сярэднебеларускія гаворкі, якія знаходзяцца паміж асноўнымі арэаламі беларускіх дыялектаў. У паўночна-ўсходнім дыялекце вылучаюцца групы — полацкая, віцебская і ўсходнемагілёўская, у паўднёва-заходнім дыялекце — гродзенска-баранавіцкая (панямонская), слуцкая, усходнепалеская і паўночнабрэсцкая. Акрамя дыялектных груп, у беларускім дыялектным арэале вылучаюцца яшчэ і дыялектныя зоны: паўночная, або падзвінская, паўднёвая, або палеская, усходняя, заходняя, паўночна-заходняя, паўднёва-ўсходняя і цэнтральная. Дыялектная зона аб'ядноўвае гаворкі, якія адносяцца да розных груп, але маюць некаторыя агульныя рысы.

Адносна праблемы вылучэння беларускай мовы і беларускага этнасу са славянскай (усходнеславянскай) моўна-этнічнай агульнасці погляды вучоных звычайна сыходзяцца на тым, што завяршэнне гэтых працэсаў адбылося ў перыяд існавання Вялікага княства Літоўскага (14—16 ст.). Што датычыцца іх пачатку, то думкі даследчыкаў разышліся. Адны лічаць, што фарміраванне беларускай мовы і асобных яе рысаў пачалося толькі пасля распаду Кіеўскай Русі, другія вытокі такіх асаблівасцей адносяць да больш ранніх часоў і звязваюць іх з сярэдневяковымі плямёнамі (крывічамі, дрыгавічамі, радзімічамі). На думку адных, роля крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў у фарміраванні беларускага этнасу прыкладна аднолькавая, на думку другіх, першапачатковым яго ядром з'яўляліся дрыгавічы і радзімічы, а «беларусізацыя» крывічоў — падзея больш позняя, на думку трэціх, першапачатковае ядро беларусаў — гэта крывічы ці пазнейшая зона былога крывіцкага арэала, а потым ужо наступіла «беларусізацыя» дрыгавічоў ці іх нашчадкаў. Некаторыя даследчыкі лічаць, што быў прыліў на тэрыторыю Беларусі «ўсходнярусаў» і «паўднёварусаў» і гэтыя этнасы ўдзельнічалі ў беларускім этнагенезе. Таксама існуе думка пра сярэднеўсходнеславянскую зону, з заходняй часткі якой вылучылася прабеларускае ядро (дрыгавічы і радзімічы, на думку адных, крывічы — другіх). Даследчыкі адзначаюць наяўнасць заходнеславянскага («ляшскага») уплыву на гаворкі славянскіх плямёнаў — продкаў беларусаў. Ёсць меркаванне, што паўднёва-заходні дыялект беларускай мовы і паўночны дыялект украінскай мовы ўзыходзяць да адзінага дыялекту. Большасць даследчыкаў прызнае наяўнасць балцкага субстрату ў продкаў беларусаў.

Наконт фактараў, якія з'яўляюцца вызначальнымі ў вылучэнні беларускага этнасу з усходнеславянскага адзінства і яго кансалідацыі, існуюць таксама розныя погляды вучоных. Адны лічаць, што такім фактарам з'яўляецца перыяд Вялікага княства Літоўскага, другія — балцкі субстрат, на думку трэціх — эпоха банцараўскай культуры 5—8 ст. Пры даследаванні ранніх этапаў глота- і этнагенезу славянскіх народаў і моў істотнай з'яўляецца думка даследчыкаў аб старажытных этнамоўных зонах (Ф. П. Філін і інш.).

Беларуская мова праз усходнеславянскае адзінства ўзыходзіць да праславянскай агульнасці. Фарміраванне праславян — складаны працэс. Найбольш верагодны час іх канчатковага вылучэння з індаеўрапейскай еднасці — каля 1500 г. да н. э. (тшцінецка-камароўская культура). Як сведчаць архаічныя славянскія гідронімы (назвы рэк, рэчак), найбольш старажытнымі рэгіёнамі ў межах Беларусі, дзе замацаваўся славянскі этнічны элемент, з'яўляюцца яе паўднёвая і ўсходняя часткі. У 5—7 ст. на большай частцы тэрыторыі славянскіх зямель існуе пражская культура. У межах Беларусі яна ахоплівае значную частку Палесся. На поўнач і паўночны ўсход ад арэала пражскай культуры ў зоне пранікнення славян у балцкае асяроддзе сфарміравалася банцараўская (5—8 ст.) культура. Арэал яе пашырэння: большая частка сучаснай Беларусі (без значнай часткі Палесся і Панямоння), паўднёвая Пскоўшчына, цэнтральная і заходняя Смаленшчына, заходняя Браншчына, паўночная Чарнігаўшчына. Гэта культура, відаць, уключала як балцкае (балтамоўнае), так і славянскае (славянамоўнае) насельніцтва. Улічваючы тое, што банцараўская культура праіснавала больш за 300 гадоў, можна дапусціць, што тут сфарміравалася славянская дыялектная зона ці нават асобны славянскі «банцараўскі» дыялект. Сфера ўжывання балцкіх гаворак у адзначаным арэале, відавочна, звужалася. Арэал банцараўскай культуры блізкі да арэала беларускіх гаворак, вызначаных даследчыкамі 19 — пачатку 20 ст. Гэта, відаць, не выпадкова. У 6 ст. ўтварыўся пскоўскі славянскі крывіцкі ачаг. У 8—9 ст. крывіцкая культура пашыраецца на поўдзень, на значную частку былой тэрыторыі банцараўскай культуры, дзе сфарміраваліся полацка-смаленскія крывічы. Першапачатковым ачагом дрыгавічоў з'яўлялася Сярэдняе Надпрыпяцце (Тураўшчына). З канца 8 ст. дрыгавіцкая культура пашыраецца далей на поўнач і паўночны захад. У 10 ст. абедзве плыні, паўночная (крывіцкая) і паўднёвая (дрыгавіцкая), сышліся ў раёне на поўнач ад Мінска. Пашырэнне крывіцкай і дрыгавіцкай культур у межы былой банцараўскай культуры безумоўна суправаджалася міграцыямі першапачатковых крывічоў і першапачатковых дрыгавічоў. Радзімічы сфарміраваліся таксама на банцараўскай аснове. Знешні ўплыў пры іх фарміраванні быў менш істотны параўнальна з крывічамі і дрыгавічамі.

У эпоху Кіеўскай Русі адбылося пэўнае збліжэнне ўсходнеславянскіх дыялектных адзінак. Былі ў той час і працэсы дыферэнцыяцыі, выкліканыя феадальнай раздробленасцю і інш. Але гэты перыяд не мог сцерці асновы таго дыялектнага ландшафту, які сфарміраваўся ў папярэднія эпохі. Канчатковае завяршэнне фарміравання беларускай народнасці адбылося ў перыяд Вялікага княства Літоўскага. У беларускую народнасць кансалідаваліся не ўсе ўсходнеславянскія групы, якія ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, а пераважна толькі нашчадкі дрыгавічоў, радзімічаў і полацка-смаленскіх крывічоў. Можна меркаваць, што гэтыя этнічныя групы (былыя плямёны) былі блізкія па мове і культуры. Гэту блізкасць хутчэй за ўсё вызначыў іх агульны банцараўскі субстрат. Асноўнай прычынай дзялення беларускага моўнага арэала на паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты, відаць, з'яўляюцца міграцыйныя рухі, паўночны і паўднёвы, у час фарміравання крывіцкага і дрыгавіцкага племянных саюзаў. Фарміраванне сярэднебеларускіх гаворак таксама складанае. З аднаго боку, безумоўна,— гэта вынік узаемадзеяння паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў. З другога боку, раёны іх пашырэння — гэта паласа, якую менш за іншыя рэгіёны за-

кранулі ў час фарміравання крывічоў і дрыгавічоў паўночныя і паўднёвыя каланізацыйныя плыні. Складаным і неаднаэтапным з'яўляецца ўтварэнне і дыялектных зон, фарміраванне іх асаблівасцей і арэалаў. Яно адносіцца да розных эпох і часта бывае звязана з рознымі прычынамі. Такім чынам, фарміраванне беларускага дыялектнага ландшафту адбывалася на працягу многіх стагоддзяў. Яго асновы закладзены ў дакіеўскія часы. Даследчыкі ўдзялялі шмат увагі генезісу асаблівасцей, характэрных для беларускай мовы: аканню, цеканню-дзеканню, пераходу *е ў о (с'остры, в'осны), л у ў (быў, пісаў), о ў ы (кроў > крыві)*, зацвярдзенню *р* і інш. Усе праблемы, звязаныя з іх генезісам, далёкія ад свайго канчатковага вырашэння. Існуюць розныя думкі наконт вытокаў, прычын, паходжання, пашырэння пэўнай з'явы. Так, аканне адны вучоныя лічаць параўнальна позняй з'явай, другія, наадварот,— старажытнай. На думку адных, гэта з'ява субстратнага (балцкага) паходжання, другія лічаць, што вытокі яе абумоўлены ўнутрымоўнымі прычынамі. Дзеканне-цеканне, беларускае і польскае, адны даследчыкі лічаць генетычна агульнымі, другія — з'явамі match рознага паходжання. Зыходзяцца думкі даследчыкаў наконт таго, што беларуская дыялектная сістэма з яе дзяленнем на паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты канчаткова склалася ў эпоху Вялікага княства Літоўскага. Пра гэта сведчаць факты старажытнага беларускага пісьменства. Арэал паўднёва-заходняга дыялекта быў крыху шырэйшы, чым зараз. Большасць рысаў гэтага дыялекта больш архаічныя ў параўнанні з асаблівасцямі дыялекта паўночна-ўсходняга. Праўда, ёсць архаічныя рысы паўночна-ўсходнія, якія проціпастаўляюцца інавацыйным паўднёва-заходнім рысам.

Даследаванню генезісу асобных з'яў беларускай мовы і яе гаворак найбольш увагі сярод вучоных удзяляў Я. Ф. Карскі.

*Літ.:* Аванесов Р. И. Вопросы образования русского языка в его говорах // Вестн. Моск. ун-та. 1947. № 9; Балто-славянские исследования: 1986. М., 1988; Булыка А. М., Жураўскі А. І., Крамко І. І. Гістарычная марфалогія беларускай мовы. Мн., 1979; Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963; Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 1, 2 (вып. 1—3). Варшава, 1903, 1908, 1911, 1912; Климчук Ф. Д. К вопросу об утверждении славянского лингвистического элемента на территории нынешней Белоруссии // Балто-славянские отношения в историческом и ареальном плане: Тез. докл. ... М., 1983; Его ж. Древнее племенное деление восточных славян в свете современного диалектного ландшафта // Структура і розвиток українських говорів на сучасному етапі. Житомир, 1983; Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984; Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1968—69; Нидерле Л. Славянские древности. М., 1956; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1—2. Мн., 1970, 1972; Расторгуев П. А. Северско-белорусский говор. Л., 1927; Его ж. Говоры на территории Смоленщины. М., 1960; Рыбаков Б. А. Предки Руси // Рыбаков Б. А. Язычество древней Руси. М., 1987; Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970; Топоров В. Н., Трубачев О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962; Филин Ф. П. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. Л., 1972; Хабургаев Г. А. Этнонимия «Повести временных лет». М., 1979; Шахматов А. А. Введение в курс истории русского языка. Ч. 1. Исторический процесс образования русских племён и наречий. Пг., 1916; Šerech (Shevelov G.) Problems in the Formation of Bielorussian. New York, 1953; Этногенез белорусов: Тез. докл. ... Мн., 1973; Этнаграфія беларусаў. Мн., 1985.

*Ф. Д. Клімчук.*

## ГІСТАРЫЧНАЯ ЛЕКСІКАЛОГІЯ І ЛЕКСІКАГРАФІЯ

Гістарычная лексікалогія і лексікаграфія — цесна звязаныя агульналексікалагічнымі задачамі і праблемамі раздзелы дзвюх галін мовазнаўства: лексікалогіі і лексікаграфіі. Гістарычная лексікалогія займаецца планамерным навуковым апісаннем гісторыі слоўнікавага складу мовы і выяўленнем спецыфічных заканамернасцей яго развіцця. Аб'ектам вывучэння гістарычнай лексікалогіі і лексікаграфіі з'яўляюцца словы, якія даследуюцца імі з пункту погляду ўстанаўлення часу іх узнікнення, семантычнага напаўнення, прадуктыўнасці ў лексічнай сістэме мовы, паходжання і стылістычнай ролі, прычын з'яўлення і знікнення лексічных адзінак і іх значэнняў. Такі падыход дае магчымасць поўна і аб'ектыўна паказаць фарміраванне, развіццё і ўдасканаленне слоўнікавага складу мовы. Падрыхтоўчым этапам у вывучэнні лексічнага складу старабеларускай мовы трэба лічыць публікацыю старажытных беларускіх пісьмовых помнікаў. Пачатак гэтаму быў пакладзены яшчэ ў канцы 18 ст. Аднак найбольш інтэнсіўна гэты працэс разгарнуўся ў другой палове 19 ст. Першая спроба навуковага вывучэння пытанняў беларускай гістарычнай лексікалогіі звязана з імем Я. Ф. Карскага. Ён не ставіў перад сабою спецыяльнай задачы распрацаваць гэты раздзел мовазнаўчай навукі, паколькі галоўную ўвагу ў тых сваіх навуковых працах, якія прысвечаны разнастайным пытанням гісторыі беларускай мовы, удзяліў агульным праблемам паходжання беларускага народа і яго мовы, пытанням гістарычнай фанетыкі і графікі. Аднак вучоны добра разумеў, што поўнае і аб'ектыўнае асвятленне гісторыі мовы немагчыма без выяўлення шляхоў фарміравання, узбагачэння і ўдасканалення яе лексіка-семантычнай сістэмы. Я. Ф. Карскі даследаваў многія помнікі старабеларускага пісьменства і да кожнага такога даследавання дадаў спіс спецыфічна беларускіх або ўстарэлых ці незразумелых для чытача слоў. Найбольш цікавым з гэтых даследаванняў з'яўляецца аналіз перакладаў на беларускую мову Псалтыра («Заходнярускія пераклады псалтыра ў 15—17 стагоддзях». Варшава, 1896), у якім, па сутнасці, упершыню ў беларускім мовазнаўстве на матэрыяле аднаго гістарычнага помніка зроблена спроба даследаваць беларускую лексіку старажытнага перыяду. Галоўным жа вынікам лексікалагічных даследаванняў Карскага з'яўляюцца яго раздзелы аб запазычаннях у 1-м томе «Беларусаў». Тут у храналагічнай паслядоўнасці разглядаюцца лексічныя запазычанні беларускай мовай з фінскіх і іранскіх моў, з літоўскай, латышскай, польскай, нямецкай, італьянскай, французскай, яўрэйскай, татарскай, грэчаскай, лацінскай і інш. У пасляваенны час найбольш значныя даследаванні ў галіне гістарычнай лексікалогіі і лексікаграфіі праводзяцца ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Тут падрыхтаваны і абаронены некалькі дзесяткаў кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый (Анічэнка У. В., Булахаў М. Г., Булыка А. М., Вайтовіч Н. Т., Вяржбоўскі А. А., Жураўскі А. І., Памецька Н. К., Рудэнка А. М., Свяжынскі У. М., Скурат К. В., Чартко І. І., Шадурскі І. В., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. і інш.). Шэраг дысертацыйных даследаванняў па гістарычнай лексікалогіі і лексікаграфіі напісаны




**«Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (вокладка). 1970.**

на філалагічных факультэтах ВНУ рэспублікі і нават за яе межамі. Такія работы выкананы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна пад кіраўніцтвам праф. М. А. Жыдовіч (Гілевіч Н. І., Купрэенка В. А., Лазоўскі У. М., Шыкаловіч А. К. і інш.), Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага пад кіраўніцтвам праф. Ф. М. Янкоўскага (Аляхновіч М. М., Даніловіч М. А., Мароз В. К., Несцяровіч В. І., Тамашэвіч Т. І. і інш.), на кафедры рускай мовы Вільнюскага універсітэта імя В. Капсукаса (Антановіч А. К., Даунене З. П., Закар'ян М. М., Кедайтэне Е. І., Марчанка Е. З., Судавічэне Л. В., Сташайтэне В. П. і інш.), а таксама некаторых іншых навуковых цэнтрах краіны і за мяжой. Спачатку даследаваліся паасобныя помнікі старабеларускай мовы. Пасля мовазнаўцы перайшлі да семасіялагічнага аналізу найважнейшых пластоў і прадметна-тэматычных груп беларускай тэрміналагічнай лексікі. Такі падыход даў магчымасць звязаць гістарычнае апісанне лексічных з'яў з фактамі гісторыі матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. Апублікаваны шэраг змястоўных манаграфій па разнастайных актуальных пытаннях гістарычнай лексікалогіі і лексікаграфіі. У першую чаргу трэба назваць калектыўную манаграфію «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (1970), падрыхтаваную ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі, у якой упершыню на матэрыяле картатэкі «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» праводзіцца спецыяльнае даследаванне гісторыі слоўнікавага складу беларускай мовы, даследаванні старабеларускай метрычнай сістэмы К. У. Скурата «Даўнія беларускія меры: (Лекс. аналіз)» (1974), В. П. Сташайтэне «Абстрактная лексіка на матэрыяле старабеларускіх пісьмовых помнікаў XV—XVII ст.» (1973), А. М. Булыкі «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст.» (1980), М. Г. Булахава «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы XIV—XVII стст. Ч. 3. Лексікалагічны нарыс: (Агульнаславянская лексіка)» (1973), Н. Т. Вайтовіч «Баркалабаўскі летапіс» (1977), шэраг праблемных лексікалагічных зборнікаў і г. д. У 1990 г. выйшла манаграфія А. М. Булыкі, А. І. Жураўскага, У. М. Свяжынскага «Мова выданняў Францыска Скарыны».



А. М. Булыка. «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст.» (вокладка). 1980.

Гістарычная лексікаграфія займаецца тэорыяй і практыкай складання слоўнікаў. Сучасная беларуская лінгвістычная навука да першых фактаў беларускай гістарычнай лексікаграфіі адносіць «Лексіс» (1596) Л. Зізанія, у якім змешчана 1061 слова, і «Лексіконъ славенороссíйскій именъ толъкованіе» (1627, 2 выд. 1653 у Куцейне каля Оршы) П. Бярынды. Яны паклалі пачатак двухмоўнай усходнеславянскай лексікаграфіі. Першай спробай лексікаграфічнай апрацоўкі слоўнікавага саставу старажытнага беларускага пісьменства пазнейшага часу прынята лічыць «Алфавітны паказальнік старых беларускіх слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі». Ён уключае каля 12 000 рэестравых слоў. Склаў яго І. І. Насовіч. Спецыяльная акадэмічная камісія ў складзе акадэмікаў А. Х. Востокава, І. І. Сразнеўскага і М. А. Каркунова высока ацаніла слоўнік і рэкамендавала яго да друку. Аднак гэтая каштоўная праца І. І. Насовіча, памерам у 11 110 старонак вялікага фармату, так і засталася ў рукапісе і да гэтага часу захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу ў бібліятэцы АН Расійскай Федэрацыі. У 1871—72 гг. вядомы даследчык мовы старажытных помнікаў І. П. Навіцкі апублікаваў адносна невялічкі «Даведачны слоўнік юрыдычных тэрмінаў старажытнай актавай мовы паўднёва-заходняй Расіі», дзе змешчаны каля 600 розных па паходжанні юрыдычных, ваенных і гаспадарча-бытавых тэрмінаў старога беларуска-украінскага актавага пісьменства. Тлумачэнні лацінскіх і польскіх юрыдычных тэрмінаў, што адсутнічаюць у звычайных слоўніках, пададзены ў «Слоўніку старажытнай актавай мовы Паўночна-Заходняга краю і царства Польскага» М. Гарбачэўскага (Вільня, 1874). Акрамя таго, у ім прыведзены асобныя энцыклапедычныя звесткі пра ўрадавыя ўстановы, службовых асоб, метралогію і рамёствы Беларусі сярэдневяковай эпохі.

Такія адносна невялічкія даведнікі па лексіцы старажытнага беларускага пісьменства не маглі задаволіць патрэбы як навукоўцаў, так і шырокіх колаў грамадскасці. Таму пасля неад-



СЛОВАРЬ
древняго актоваго языка
сѣверо-западнаго края и царства Польскаго.
Составленъ
Архиваріусомъ Центральнаго Архива древнихъ актовыхъ книгъ губерній: Виленской, Гродненской, Минской и Ковенской, Членомъ Виленской Археографической Коммиссіи
Н. ГОРБАЧЕВСКИМЪ.
Изданъ
Иждивеніемъ Виленскаго Учебнаго Округа.
ВИЛЬНА.
1874

М. Гарбачэўскі. «Слоўнік старажытнай актавай мовы Паўночна-Заходняга краю і Царства Польскага». 1874.

наразовага абмеркавання аддзел мовы і літаратуры Інстытута беларускай культуры прыняў рашэнне распачаць з 1927 года работу над падрыхтоўкай гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Аднак ужо на пачатковай стадыі работа была спынена. Узноўлена гэтая работа была толькі ў 1960 г. ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі пад кіраўніцтвам загадчыка сектара гісторыі беларускай мовы члена-карэспандэнта АН Беларусі А. І. Жураўскага. На працягу 1960—72 гг. былі абмеркаваны агульныя прынцыпы ўкладання слоўніка, вызначаны яго храналагічныя рамкі і крыніцы, а таксама падрыхтавана па спецыяльнай інструкцыі картатэка (1 мільён 60 тысяч картак). З 1973 г. распачалася непасрэдная работа над падрыхтоўкай гістарычнага слоўніка беларускай мовы (гл. **Гістарычны слоўнік**), г. зн. распрацоўка слоўнікавых артыкулаў, іх рэдагаванне і падрыхтоўка да выдання. У 1982—93 гг. апублікаваны 13 выпускаў «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы». У слоўніку знайшло адлюстраванне лексічнае багацце старажытнага беларускага пісьменства 14—18 ст. Гэта лексіка мастацкіх, навуковых, публіцыстычных, рэлігійных, юрыдычных і іншых жанраў старажытнага пісьменства. Цікавы слоўнік запазычанняў старабеларускай мовы апублікаваў А. М. Булыка (1972). У кнізе раскрываецца значэн-

не больш за 9500 запазычаных слоў, прыводзяцца да іх лексічныя паралелі з іншых моў. Кожнае слова ілюструецца цытатамі з беларускіх пісьмовых помнікаў 14—18 ст. Важнае месца ў беларускай гістарычнай лексікаграфіі заняла работа У. В. Анічэнкі «Слоўнік мовы Скарыны» (т. 1—2, 1977—84). Тут на матэрыяле Скарынавых выданняў адлюстраваны лексічны фонд старабеларускай мовы пачатку 16 ст.

Да гістарычнага цыкла належыць і распачаты выданнем «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (т. 1—8, 1978—93). У ім даецца гісторыка-словаўтваральны і лінгвагеаграфічны аналіз слоў беларускай літаратурнай мовы і яе дыялектаў. Для гэтага выкарыстаны, апрача апублікаваных слоўнікаў, і розныя картатэкі, рукапісныя слоўнікі, архіўныя матэрыялы, этнаграфічныя і фальклорныя выданні.

Лексічная сістэма беларускай мовы складалася на працягу значнага гістарычнага перыяду. Сваімі каранямі яна цесна звязана са слоўнікавым багаццем старажытнарускай мовы, якая да 14 ст., як традыцыйна прынята лічыць, была агульным сродкам зносін усходніх славян і паслужыла зыходнай крыніцай для рускай, беларускай і ўкраінскай моў. Таму пры вывучэнні слоўнікавага складу старабеларускай мовы неабходна пастаянна звяртацца да фактаў старажытнарускай мовы. Асноўнымі лексікаграфічнымі працамі па ёй з'яўляюцца «Матэрыялы для слоўніка старажытнарускай мовы па пісьмовых помніках» (т. 1—3, 1893—1912) І. І. Сразнеўскага, шматтомныя «Слоўнік рускай мовы XI—XVII стст.» (вып. 1—17, 1975—91), «Слоўнік рускай мовы XVIII ст.» (вып. 1—6, 1984—91) і іншыя.

*Літ.:* Воук-Левановіч О. В. Аб прынцыпах і метадах укладання гістарычнага слоўніка беларускай мовы // Зап. аддз. гуманіт. навук. Мн., 1929. Кн. 9. Працы класа філалогіі. Т. 2; Булахаў М. Г. Да пытання аб асноўным слоўнікавым фондзе і слоўнікавым саставе старажытнай беларускай мовы // Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. 1954. Вып. 2; Суднік М. Р. Гісторыя ўзнікнення і этапы развіцця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары // Тамсама. Мн., 1957. Вып. 4; Жураўскі А. І. Лексіка нямецкага паходжання ў беларускай пісьменнасці XV—XVII стст. // Беларуская мова: (Даследаванні па лексікалогіі). Мн., 1965; Шадурскі І. В. Назвы землеўладанняў у старажытнай беларускай мове // Тамсама; Гуліцкі М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1978; Анічэнка У. В. Гістарычная лексікалогія ўсходнеславянскіх моў. Гомель, 1978; Булыко А. Н. Исторический словарь белорусского языка // Научно-реферативный бюллетень: (Отечеств. лит.). № 93. Белорусская лексикография. Мн., 1988.

*П. А. Міхайлаў.*

## ГІСТАРЫЧНАЯ ФРАЗЕАЛОГІЯ

Прадмет гістарычнай фразеалогіі — вывучэнне першасных форм і значэнняў фразеалагізмаў, выяўленне іх крыніц ва ўсіх даступных матэрыялах (старажытных помніках, тэрытарыяльных і сацыяльных дыялектах, фальклоры, гутарковай мове), заканамернасцей утварэння і сфер іх ужывання, вызначэнне аб'ёму і тэндэнцый развіцця фразеалагічнага складу ў тую ці іншую гістарычную эпоху развіцця мовы.

Асноўнай рысай развіцця фразеалагічнага складу старабеларускай мовы з'яўлялася наяўнасць у ім вялікай колькасці апісальных структур са слабай семантычнай спаянасцю кампанентаў тыпу: *брати закладъ (потребу)* 'атрымліваць, прымаць штонебудзь ад каго-небудзь'; *въ дому засести* 'жыць доўгі час на адным месцы'; *дворъ шинковный (корчомный)* 'памяшканне для начлегу з продажам віна, піва, мёду і г. д.'; *мужъ божий* 'прапаведнік'; *слово божое* 'наказ'; *раб божий* 'чалавек'; *до сивого волоса* 'да старасці'; *мимо уши пустити* 'не звяртаць увагі' і г. д.

Некаторыя фразеалагізмы старабеларускай мовы мелі ў сваёй аснове вобразнасць, напрыклад: *лопатки надворные* 'пошліна за права продажу мяса'; *въ ѡчі колоти* 'сароміць'; *головой муру не пробити* 'не дасягнуць мэты, не пераканаць каго-небудзь у чым-небудзь'; *ока не запорошити* 'не пакрыўдзіць каго-небудзь'; *ногу за ногу волочити* 'ледзь хадзіць'; *бити груди свое* 'каяцца'; *испити горки келих (горкую чашу)* 'папакутаваць' і інш.

Фразеалагізмы старабеларускай мовы характарызаваліся вузкасцю сферы ўжывання, некадыфікаванасцю норм, абмежаванасцю фразеаўтваральных працэсаў, што тлумачылася, у першую чаргу, абмежаванасцю патрэб грамадства ў эмацыянальна-экспрэсіўным абазначэнні пэўных паняццяў і рэальнымі магчымасцямі мовы ў гэты гістарычны перыяд. Некаторыя фразеалагічныя адзінкі старабеларускай мовы перайшлі ў сучасную мову і жывуць без змен формы і зместу, параўнайце старабеларускія *ꙗзыку воли дати* 'дазваляць сабе гаварыць лішняе', *ѡтворити ѡчи* 'зрабіць відавочнай праўду' і сучасныя *даць волю языку, адкрыць вочы (каму)*. Частка фразеалагізмаў старабеларускай мовы зазнала некаторыя лексікасемантычныя змены, напрыклад: *възняти руку* 'ударыць каго-небудзь' — *узняць руку* 'зрабіць замах на каго-небудзь'; *на свой млынъ воду проводити* 'паварочваць справу на сваю карысць' — *ліць ваду на чый-небудзь млын* 'ускосна дапамагаць сваімі справамі супрацьлегламу боку'. Некаторыя старабеларускія фразеалагізмы, не трапіўшы ў сучасную беларускую літаратурную мову, засталіся ў дыялектах, як, напрыклад, старабеларускае *замыдляти очи* 'уводзіць у зман' і дыялектнае *вочы замыльваць*; некаторыя выпалі з фразеалагічнага складу беларускай мовы наогул: *зъ рукъ выжати* 'атрымаць па суду, вызваліць'.

Найбольшай актыўнасцю працэс фразеаўтварэння, які адбываецца пераважна на аснове метафарычнага і метанімічнага пераасэнсавання словазлучэнняў або асноўных слоў у іх складзе, назіраецца ў канцы 18 — пачатку 19 ст. Адной з галоўных тэндэнцый у развіцці фразеалагічнага складу беларускай мовы 19 ст. было набыццё яго адзінкамі большай адцягненасці (у параўнанні з пераважнай канкрэтнасцю значэнняў фразеалагізмаў папярэдняга перыяду), якая ўзнікла пад уплывам пашырэння дыяпазонаў іх спалучальнасці і павелічэння кантэкстаў ужывання (напрыклад, *на ўсе застаўкі* 'моцна, з усіх сіл храпці, дзьмуць, гуляць, працаваць, хваліць'). Фразеалагічны склад змяняецца і на сучасным этапе развіцця мовы шляхам абнаўлення яго адзінак і ўтварэння новых (напрыклад, *выйсці на арбіту* 'набыць папулярнасць, дасягнуць поспехаў у чым-небудзь, пачаць актыўна дзейнічаць', *зорныя браты* 'касманаўты', *разрадка напружанасці* 'працэс паслаблення пагрозы вайны'). Стварэнне фразеалагізмаў з'яўляецца неад'емнай уласцівасцю гістарычнага развіцця мовы, яе ўзбагачэння і ўдасканалення.

Параўноўваючы, напрыклад, фразеалагізмы сучаснай беларускай мовы з адпаведнымі адзінкамі старабеларускай, мы выяўляем не толькі колькасныя адрозненні гэтых двух узроўняў развіцця мовы, але і больш глыбокія, якасныя змены фразеалагічнага складу.

*Літ.:* Гусейнов Ф. Г. О некоторых вопросах диахронического изучения фразеологии // Уч. зап. Азербайджанского гос. ун-та. Сер. языка и литературы. Баку, 1970. № 5—6; Мокиенко В. М. Историческая фразеология: этнография или лингвистика? // Вопр. языкознания. 1973. № 2; Аксамітаў А. С. Некаторыя асаблівасці гістарычнага развіцця беларускай фразеалогіі // Z problemów frazeologii polskiej i słowiańskiej. Wrocław etc., 1988. T. 4.

*А. С. Аксамітаў.*

## ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК

Тэрмінам «гістарычны слоўнік» абазначаюцца лексікаграфічныя працы двух тыпаў: слоўнік сучаснай мовы, у якім сучасныя словы з пункту погляду паходжання, значэння і структуры тлумачацца фактамі пісьмовых помнікаў і данымі дыялектаў і роднасных моў; слоўнік лексікі пісьмовых помнікаў, у якім значэнне старажытных слоў раскрываецца сродкамі сучаснай мовы. Для ўсходнеславянскага мовазнаўства стварэнне

гістарычных слоўнікаў першага тыпу з'яўляецца задачай будучага, бо гэтаму павінна папярэднічаць падрыхтоўка спецыяльных лексікаграфічных прац.

Гістарычны слоўнік кожнай мовы ў першую чаргу з'яўляецца надзейнай крыніцай для вывучэння слоўнікавага саставу мовы мінулых эпох. На яго абапіраюцца разнастайныя даследаванні ў галіне мовазнаўства. Без такога слоўніка нельга вырашыць многія праблемы гісторыі і сучаснага стану мовы. Вялікае значэнне гістарычны слоўнік мае для гісторыкаў у іх рабоце над старажытнымі тэкстамі, для даследчыкаў мастацкай літаратуры старажытнага перыяду, для этнографаў, правазнаўцаў і ўсіх спецыялістаў, якія займаюцца вывучэннем гістарычнага мінулага свайго народа. Разам з тым гістарычны слоўнік з'яўляецца важным помнікам культуры наогул. Зафіксаванае ў ім слоўнае багацце мінулых эпох яскрава характарызуе ступень развіцця народа, кола яго духоўных інтарэсаў, звычаі, абрады, побыт і ўзровень матэрыяльнай культуры.

Першая спроба лексікаграфічнай апрацоўкі слоўнікавага саставу старабеларускіх пісьмовых помнікаў адносіцца да сярэдзіны 19 ст. і звязана з імем І. І. Насовіча. У 1853—57 гг. па заданні II Аддзялення Расійскай акадэміі навук ён склаў слоўнік да 5-томнага збору старабеларускіх актавых матэрыялаў, выдадзеных у 1846—53 гг. Археаграфічнай камісіяй пад назвай «Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі». У слоўніку змешчана каля 12 тысяч старабеларускіх слоў, якія, на думку складальніка, патрабавалі тлумачэння з пункту погляду рускага чытача. Аднак гэтай каштоўнай працы не суджана было выйсці ў свет. Цяпер рукапіс слоўніка захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі АН Расійскай Федэрацыі ў Санкт-Пецярбургу.

З іншых лексікаграфічных прац таго часу варта адзначыць выдадзены ў Вільні ў 1874 г. М. Гарбачэўскім «Слоўнік старажытнай актавай мовы Паўночна-Заходняга краю і царства Польскага». Ён змяшчае тлумачэнні пераважна лацінскіх і польскіх тэрмінаў, якія ўжываліся ў старабеларускім актавым пісьменстве, але адсутнічаюць у звычайных польскіх і лацінскіх слоўніках. Акрамя таго, у слоўніку падаюцца звесткі энцыклапедычнага характару пра дзяржаўныя ўстановы, службовых асоб, метралогію і рамёствы Беларусі сярэдневяковай эпохі. Таму слоўнік Гарбачэўскага не страціў свайго значэння і ў наш час. Некаторыя матэрыялы з тлумачэннем старабеларускіх слоў ёсць у дадатках да выдадзеных у мінулым помнікаў старабеларускага пісьменства.

Неабходнасць падрыхтоўкі поўнага гістарычнага слоўніка беларускай мовы даўно ўсведамлялася даследчыкамі, але практычныя крокі ў гэтым кірунку былі распачаты толькі ў 1920-х гадах, калі навуковае вывучэнне беларускай мовы атрымала арганізаваны і мэтанакіраваны характар. У Інстытуце беларускай культуры, дзе ў той час канцэнтравалася даследчыцкая работа па беларускай філалогіі, пытанне аб падрыхтоўцы гістарычнага слоўніка беларускай мовы паўстала ўжо ў сярэдзіне 20-х гадоў. Побач з навуковымі мэтамі гістарычнаму слоўніку надавалася тады і вялікае практычнае значэнне — ён разглядаўся як магчымая крыніца ўзбагачэння лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. У 1928 г. пры кафедры гісторыі беларускай мовы была створана спецыяльная камісія па ўкладанні гістарычнага слоўніка беларускай мовы. У 1929 г. І. В. Воўк-Левановіч апублікаваў артыкул аб прынцыпах і метадах падрыхтоўкі гэтага слоўніка. Ужо ў 1928 г. ў камісіі было каля 25 тысяч слоў, выпісаных з беларускіх летапісаў і некаторых рэлігійных твораў. Работа па стварэнні гістарычнага слоўніка беларускай мовы спынілася ў сувязі з рэпрэсіямі нацыянальных навуковых кадраў.

Канец 50-х гадоў ва ўсходнеславянскім мовазнаўстве азнаменаваўся ажыўленнем работы па гістарычнай лексікаграфіі, вынікам чаго з'явіліся гістарычныя слоўнікі рускай і ўкраінскай моў. У гэты працэс уключыліся і беларускія моваведы. У сектары гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН Беларусі ў канцы 50-х гадоў праводзілася абмеркаванне распрацаваных А. І. Жураўскім агульных прынцыпаў пабудовы слоўніка, вызначэнне тэрмінаў работы па этапах і г. д. Перад складальнікамі беларускага гістарычнага слоўніка сталць усе тыя праблемы, з якімі сутыкаюцца і пры падрыхтоўцы аналагічных слоўнікаў па іншых мовах. Разам з тым тут паўсталі і некаторыя спецыфічныя пытанні, звязаныя з асаблівасцямі гісторыі беларускай мовы. Такім спецыфічным пытаннем з'явілася вызначэнне храналагічных межаў слоўніка і яго крыніц.

З тэарэтычнага пункту погляду ў гістарычны слоўнік беларускай мовы апраўдана ўключыць і лексічны матэрыял старажытнарускіх помнікаў 11—14 ст., паколькі мова таго часу з'яўляецца зыходным этапам у гісторыі беларускай мовы, як рускай і ўкраінскай. Разам з тым гэты матэрыял павінен увайсці ў аналагічныя слоўнікі рускай і ўкраінскай моў. Аднак лексіка старажытнарускіх помнікаў знаходзіць адлюстраванне ў «Слоўніку старажытнарускай мовы XI—XIV стст.». Таму, каб пазбегнуць паўтарэння, беларускі гістарычны слоўнік мэтазгодна пачынаць з канца 14 стагоддзя.

Вышэйшая мяжа беларускага гістарычнага слоўніка вызначаецца пачаткам 18 ст., прычым з гэтага часу выкарыстаны толькі адзін помнік — выдадзены ў Супраслі ў 1722 г. рэлігійны твор «Збор выпадкаў кароткі», мова якога паслядоўна працягвае традыцыі старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы. Створаныя ў 18 ст. інтэрмедыі і інтэрлюдыі грунтуюцца на народна-дыялектнай беларускай мове без працягу старых пісьмовых традыцый, і сістэмай сваіх сродкаў яны адносяцца да новай беларускай літаратурнай мовы. Таму для гістарычнага слоўніка яны не выкарыстоўваюцца. Такім чынам, гістарычны слоўнік беларускай мовы адлюстроўвае лексіку беларускага пісьменства чатырох стагоддзяў — ад пачатку 14 да пачатку 18 ст. Аднак практычна ў ім больш поўна змяшчаецца лексіка ад другой палавіны 15 да другой палавіны 17 стагоддзя, бо якраз да гэтай эпохі адносіцца найбольшая колькасць беларускіх пісьмовых помнікаў.

Праблема крыніц гістарычнага слоўніка беларускай мовы асабліва складаная па той прычыне, што старабеларускае пісьменства развівалася ва ўмовах літаратурнага шматмоўя — творы розных жанраў тут пісаліся на беларускай, царкоўнаславянскай, польскай і лацінскай мовах з некаторым размежаваннем іх функцый у розных галінах грамадскага і культурнага жыцця. Помнікі на царкоўнаславянскай, польскай і лацінскай мовах не выкарыстоўваюцца як крыніцы для слоўніка. Аднак на Беларусі пісьменства на царкоўнаславянскай мове ў большай ці меншай ступені насычалася беларускімі моўнымі элементамі, а беларускія помнікі ў сваю чаргу падвяргаліся ўплыву царкоўнаславянскай мовы. У сувязі з гэтым у шэрагу выпадкаў цяжка вызначыць, з беларускім ці царкоўнаславянскім тэкстам даводзіцца мець справу. Размежаванне такіх змешаных па мове помнікаў грунтуецца на статыстычным уліку таго, якім матэрыялам — беларускім ці царкоўнаславянскім — запаўняюцца ў тэксце тыя звёны фанетычнай сістэмы, граматычнага ладу і слоўнікавага складу, якія атрымлівалі розную рэалізацыю ў беларускай і царкоўнаславянскай мовах. Напрыклад, перавага ў помніку поўнагалосных форм тыпу *голова, золото, молодый* указвае на беларускую моўную аснову тэксту, а суадносныя формы *глава, злато, младый* сведчаць аб прыналежнасці помніка да царкоўнаславянскай мовы.

Пры падборы крыніц для слоўніка вельмі складаным аказалася пытанне, як размежаваць беларускія і ўкраінскія помнікі. Сярод даследчыкаў пераважае перакананне, што беларусы і ўкраінцы аж да 17 ст. карысталіся агульнай літаратурнай мовай. Таму выказваліся меркаванні пра мэтазгоднасць падрыхтоўкі агульнага слоўніка беларуска-ўкраінскага пісьменства

14—16 ст. Але такі падыход не апраўданы метадалагічна: стварэнне такога слоўніка дало б падставу лічыць, што самастойная гісторыя беларускай і ўкраінскай моў пачынаецца толькі з 17 ст. У наш час гісторыі беларускай і ўкраінскай моў вывучаюцца як самастойныя моўныя сістэмы, а гэта непазбежна звязана з неабходнасцю размяжоўваць беларускія і ўкраінскія помнікі. Такое размежаванне практычна праводзіцца па розных паказчыках у залежнасці ад задач і мэт даследавання. Складальнікі гістарычнага слоўніка беларускай мовы пры размежаванні помнікаў узялі за аснову сацыялагічна-тэрытарыяльны паказчык — улік таго, дзе і ў якім асяроддзі ўзнік помнік, на задавальненне чыіх духоўных інтарэсаў ён арыентаваўся, дзе і кім ён чытаўся, на чые матэрыяльныя сродкі ён ствараўся і г. д.

Выкарыстаныя для слоўніка помнікі старабеларускага пісьменства па зместу, прызначэнні, моўных асаблівасцях падзяляюцца на 3 асноўныя жанрава-стылявыя разнавіднасці: канцылярска-юрыдычныя (актавыя), свецка-мастацкія і рэлігійныя. Канцылярска-юрыдычнае пісьменства ў сувязі з яго вялікім аб'ёмам выкарыстана выбарачна з тым разлікам, каб у слоўніку быў адлюстраваны лексічны матэрыял рознага часу і розных тэрыторый. Пры гэтым было прынята пад увагу, што канцылярска-юрыдычнае пісьменства, нягледзячы на яго вялікі аб'ём, аднастайнае і параўнальна небагатае ў лексічных адносінах. У адрозненне ад гэтага вядомыя ў наш час творы свецка-мастацкага і рэлігійнага пісьменства былі выкарыстаны поўнасцю.Складальнікі слоўніка правялі вялікую пошукавую работу ў бібліятэках і архівах Вільнюса, Санкт-Пецярбурга, Масквы, Кіева, Львова і іншых гарадоў па выяўленні беларускіх пісьмовых помнікаў і падрыхтоўцы іх фотаздымкаў і мікрафільмаў.

Першым этапам работы над слоўнікам было стварэнне картатэкі, што праводзілася на працягу 1960—1972 гг., у выніку чаго з помнікаў старабеларускага пісьменства было выпісана больш за мільён картак-слоў. Найбольшы ўклад у стварэнне картатэкі ўнеслі супрацоўнікі аддзела гісторыі беларускай мовы У. В. Анічэнка, А. М. Булыка, П. В. Вярхоў, А. І. Жураўскі, І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч. Непасрэдная работа па распрацоўцы слоўнікавых артыкулаў пачалася ў 1973 г. і працягваецца цяпер. З 1982 г. слоўнік пачаў выдавацца асобнымі выпускамі. Ужо выйшла 13 выпускаў.

Гістарычны слоўнік беларускай мовы з пункту погляду ўнутранай структуры будуецца паводле тых самых прынцыпаў, што і аналагічныя слоўнікі па іншых мовах. Ён змяшчае агульную лексіку ўсіх часцін мовы. Загаловачныя словы размяшчаюцца ў алфавітным парадку і падаюцца ў зыходных формах. Значэнне слова тлумачыцца адпаведнымі эквівалентамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы або апісальна. Значэнні мнагазначных слоў распрацоўваюцца асобна. Кожнае слова і кожнае асобнае яго значэнне ілюструецца цытатамі з пісьмовых помнікаў. Цытатны матэрыял падаецца з захаваннем найважнейшых графіка-арфаграфічных асаблівасцей арыгіналаў. У канцы слоўнікавых артыкулаў прыводзяцца найбольш тыповыя фразеалагізмы і ўстойлівыя словазлучэнні з апорным загаловачным словам. Мяркуецца, што гістарычны слоўнік беларускай мовы будзе змяшчаць каля 60 тысяч слоў, зафіксаваных у помніках беларускага пісьменства 14—18 ст.

*Літ.:* Воўк-Левановіч О. В. Аб прынцыпах і метадах укладання гістарычнага слоўніка беларускай мовы // Зап. аддз. гуманіт. навук. Мн., 1929. Кн. 9. Працы класа філалогіі. Т. 2; Журавский А. И. О подготовке словаря старого белорусского языка // Вопр. языкознания. 1963. № 4; Яго ж. Праблема варыянтаў у слоўніку старабеларускай мовы // Праблемы беларускай філалогіі. Мн., 1968; Яго ж. Основные принципы подготовки Словаря старобелорусского языка // Проблемы славянской исторической лексикологии и лексикографии. Теория и практика исторической лексикографии. М., 1975. Вып. 3; Яго ж. Прынцыпы падрыхтоўкі гістарычнага слоўніка беларускай мовы // Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1982. Вып. 1. *А. І. Жураўскі.*

## «ГІСТАРЫЧНЫЯ ЗАПІСКІ» Ф. М. ЕЎЛАШОЎСКАГА




**У. М. Свяжынскі. «Гістарычныя запіскі Ф. Еўлашоўскага» (вокладка). 1990.**

У гісторыю беларускай літаратуры і мовы грамадскі дзеяч і пісьменнік Фёдар Міхайлавіч Еўлашоўскі ўвайшоў як аўтар першых беларускіх мемуараў «Гістарычныя запіскі». Яны з'яўляюцца асноўнай крыніцай звестак пра жыццёвы шлях аўтара.

Ф. М. Еўлашоўскі нарадзіўся 7 лютага 1546 г. ў г. Ляхавічы. Шляхам самаадукацыі набыў неабходныя веды ў галіне матэматыкі, справаводства, юрыспрудэнцыі. Па даручэнні навагрудскай шляхты быў паслом на Люблінскім (1569) і Варшаўскім (1579) сеймах. Разам з навагрудскім суддзёй А. Трызнай, памочнікам якога ён тады працаваў, пісьменнік удзельнічаў у выпрацоўцы дзяржаўна-прававога дакумента — «Трыбунала Вялікага княства Літоўскага». У поглядах на грамадска-палітычнае жыццё ён прытрымліваўся памяркоўнага лібералізму. Памёр Еўлашоўскі каля 1616 г.

З літаратурнай спадчыны Ф. М. Еўлашоўскі пакінуў дыярыуш — самы ранні помнік мемуарнага жанру ў беларускай літаратуры канца 16 — пач. 17 ст. Арыгінал мемуараў — рукапіс (55 старонак) без назвы і пачатковай старонкі (зберагаецца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве; рукапісная копія — у бібліятэцы АН Украіны ў Львове). Са значнымі папраўкамі ён упершыню быў апублікаваны ўкраінскім гісторыкам У. Б. Антановічам, які назваў яго «Дзённікам» (Киевская старина. 1886. Т. 14). Аднак, паколькі акрамя характэрных для жанру дзённіка запісаў асабістага характару ўспаміны ўключаюць і звесткі пра асобныя падзеі грамадска-палітычнага жыцця і з'яўляюцца пэўнай гістарычнай крыніцай, іх у апошні час называюць «Гістарычныя запіскі». У іх адлюстраваны зацікаўленасць побытам сярэдняга чалавека, сацыяльнае жыццё праз суб'ектыўнае светаўспрыманне аўтара. Змешчаны матэрыял для вывучэння палітычнага і культурнага жыцця, побыту, светапогляду прадстаўнікоў розных класаў і найперш шляхты, даюцца характарыстыкі многіх вядомых асоб, у тым ліку аршанскага старосты Ф. Кміты-Чарнабыльскага.

Насычаная шматлікімі польскімі элементамі, мова «Гістарычных запісак» вельмі блізкая да мовы старабеларускіх дзелавых дакументаў. Агульнасць гэтая перш за ўсё — у галіне графікі, якая складаецца з 40 літар. Па колькасці дублетных літар кірыліцы «Запіскі» збліжаюцца з самымі прагрэсіўнымі дзелавымі тэкстамі таго часу: гук [і] перадаецца адной літарай *и*, гук [у] — літарамі *ȣ* і *у*; зусім не ўжываецца так характэрная для старажытнага пісьма літа-

ра ѣ; гук [з] перадаецца адной літарай з; гук [ф] — адной літарай ѳ. Ужываюцца польскія насавыя галосныя ą і ę.

У галіне фанетыкі ў «Запісках» праявіўся характэрны для старажытнага правапісу кансерватызм: амаль зусім не знайшлі адлюстравання аканне, яканне, дзеканне, цеканне; слаба адлюстравана зацвярдзенне шыпячых, больш-менш прыкметна — пераход *в* у *у* (*ў*) (*ȣвечор, ȣ Слуцку, ȣ наȣцэ*).

Для марфалогіі «Запісак» характэрны тыя ж суадносіны старых і новых форм, якія ў той час былі ўласцівы і жывой мове, і дзелавым тэкстам. Адушаўлёныя назоўнікі ў родным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак *-а/-я* (*бискупа, кгрудня, князя*), неадушаўлёныя — канчатак *-у/-ю* (*жалю, пяску, сэйму*); уплывам польскай мовы тлумачыцца шырокае ўжыванне назоўнікаў мужчынскага роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку з канчаткам *-ови/-еви* (*домови, кролеви, сынови*), у назоўным склоне множнага ліку з канчаткам *-ове/-еве* (*венкгрове, докторове, послове, сенаторове*) і з канчаткам *-ы/-и* з пераходам заднеязычных у свісцячыя і шыпячыя, як у польскай мове (*коморницы, розбойницы, влоши*); назоўнікі ніякага роду ўжываюцца са сваім канчаткам *-а/-я* (*голубята, желяза, похолента*); у давальным склоне множнага ліку назоўнікі мужчынскага роду маюць свой стары канчатак *-ом/-ем* (*жолнером, монархом, турком*); у творным склоне множнага ліку яшчэ часта ўжываецца стары канчатак *-ми* (*жолнэрми, конми, приятельми*), але пераважае новы канчатак *-ами/-ями*, уласцівы раней толькі назоўнікам жаночага роду (*венкграми, влохами, каинами*); стары канчатак *-ох/-ех* пераважае ў месным склоне множнага ліку (*вэ влошех, в тых кутех, на судех*). У галіне прыметніка пад уплывам польскай мовы шырока ўжываюцца сцягнутыя формы назоўна-вінавальнага склону ніякага роду з канчаткам *-э/-е* (*велке множство, поветре кгвалтовнэ, добрэ заховане*); пры перавазе ўсходнеславянскіх форм роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду з канчаткам *-ого/-его* (*великого, домового, правдивого*) часта ўжываюцца і формы польскага паходжання з канчаткам *-экго/-екго* (*велкекго, вшехмокгąнцэкго, мąдрэкго*); прыметнікі мужчынскага роду ў давальным склоне адзіночнага ліку амаль заўсёды маюць усходнеславянскі канчатак *-ому/-ему* (*великому, виленскому, другому*), побач з якім сустракаецца і канчатак польскага паходжання *-эму/-ему*, невядомы іншым старабеларускім пісьмовым помнікам (*велкему, млодэму, кторему*); у вінавальным склоне адзіночнага ліку прыметнікі жаночага роду могуць мець уласцівыя польскай мове формы з канчаткам *-ą* (*велка учтивость, указовали, впадлэм у велкą хоробэ, знализмы велкą милост*), толькі ў «Запісках» з гэтым жа канчаткам яны ўжываюцца і ў творным склоне (*за ласкą божą, за бронą завэлейскą, левą се ренкą бронил*); новыя, уласцівыя жывой беларускай мове формы прыметнікаў мужчынскага роду, агульныя з творным склонам, пераважаюць у месным склоне адзіночнага ліку (*у возе велким, в месте виленским, в месте влоским*); у назоўным і вінавальным склонах множнага ліку поўныя прыметнікі маюць толькі канчатак *-ые/-ие*, уласцівы раней прыметнікам жаночага роду (*посолы великие московские, облудные приятеле*), побач з гэтым сустракаюцца і сцягнутыя формы польскага паходжання на *-э/-е* (*были дивнэ кглосы, роки земске поменены были*); асабовы займеннік 1-й асобы адзіночнага ліку яшчэ ўжываецца часам у кароткіх формах давальнага склону *ми* і вінавальнага *мя*, у вінавальным склоне — у сцягнутай форме польскага паходжання *мне* (*он тэж до мне выстэмповал, послал до мне, он до мне отписал*). Займеннік 3-й асобы адзіночнага ліку сустракаецца ў сцягнутых формах роднага і вінавальнага склонаў *кго* і давальнага склону *му*. У адрозненне ад усіх іншых старабеларускіх тэкстаў неазначальная форма дзеяслова мае пераважна скарочаны суфікс *-ть* (*бавить, важить, ведать*); апісальныя формы загаднага ладу часам могуць утварацца пры дапамозе часціцы польскага паходжання *нех* (*нех му то отда, нех зостава вечна честь*); адсутнічаюць простыя формы прошлага часу — аорыст і імперфект. Ужываюцца формы т. зв. злітнага перфекта польскага паходжання 1-й асобы адзіночнага і множнага ліку (*дошедлэм, зрозумялэм, працовализмы, горейсмы мели*); формы 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга і будучага часу ўжываюцца без канцавога *-ть* (*живе, зове, каже*), што можна лічыць вынікам уплыву польскай мовы.

Вынікам уплыву польскай мовы ў сінтаксісе з'яўляецца постпазіцыя прыметнікавых азначэнняў (*в ряде кролевской, в року панским, в парыжу у францyским*), вялікая колькасць безасабовых сказаў з дзеепрыметнікам на *-но/-то* ў ролі выказніка (*люд под меч дано было, кволи туркови стять дано, му ласкэ кролевску обецовано*).

*Публ.:* Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983.

*Літ.:* Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3, ч. 2. Пг., 1921; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Яго ж. Заўвагі аб моўных асаблівасцях «Дзённіка» Ф. Еўлашоўскага // Slavia Orientalis. 1968. № 3; Свяжынскі У. М. Гістарычныя запіскі Ф. Еўлашоўскага. Мн., 1990.

*У. М. Свяжынскі.*



## ГІСТАРЫЧНЫЯ ЗМЕНЫ ГУКАЎ

На працягу шэрага гістарычных эпох у фанетычнай сістэме беларускай мовы адбыліся значныя змены. У яе сучаснай моўнай структуры выяўляюцца, з аднаго боку, элементы, якія з'яўляюцца агульнымі для ўсіх славян, а з другога — якія збліжаюць яе толькі з усходнеславянскімі мовамі. Акрамя таго, ёсць рысы, якія адрозніваюць беларускую мову ад усіх славянскіх моў, у тым ліку ад рускай і ўкраінскай. Гэта тлумачыцца тым, што адны фанетычныя працэсы ўзніклі ў праславянскай (агульнаславянскай) мове і далі аднолькавыя (ці розныя) рэфлексы ў трох групах славянскіх моў (усходняй, заходняй і паўднёвай); другія — вынік фанетычных змен агульнаўсходнеславянскага перыяду. Менавіта ў гэты час у мове ўсходніх славян развіваліся тыя асаблівасці, якія прывялі яе да адрознення ад паўднёвых і заходніх славянскіх моў. І нарэшце, у сучаснай беларускай мове выяўляюцца фанетычныя асаблівасці, якія ўзніклі пасля распаду ўсходнеславянскага адзінства (13—14 ст.) і сталі істотнымі пры ўтварэнні мовы беларускай народнасці, яе сучаснай фанетычнай сістэмы.

Да важнейшых працэсаў, істотным чынам змяніўшых гукавы праславянскі склад мовы, належыць асімілятыўнае памякчэнне зычных перад *j* (ётам). Пад уздзеянне *j* падпадалі свісцячыя, заднеязычныя і санорныя зычныя. У адных выпадках гэта дало аднолькавыя, а ў другіх — розныя вынікі ў дыялектах праславянскай мовы, што і адлюстравалася ў гісторыі асобных славянскіх моў. Напрыклад, ва ўсіх славянскіх мовах аказаўся аднолькавы лёс былых спалучэнняў наступных зычных з ётам: *zj, sj, lj, nj, rj, kj, gj, chj*. Гэта сведчыць аб глыбокай старажытнасці гэтай фанетычнай з'явы. Ва ўсіх славянскіх мовах на месцы былых спалучэнняў *zj, sj* з'явіліся шыпячыя зычныя *ж, ш*: **kozja* > балг. *кожа*, чэшск. *kůže*; **pisją* > бел. *пішу*, балг. *пиша*, сербскахарв. *пи̑ше̂м*, чэшск. *píšu*. У выніку памякчэння спалучэнні *kj, gj, chj* змяніліся на мяккія шыпячыя *č, ž, š*: **plakjos* > бел. *плач*, рус. *плачь*, балг. *плач*, польск. *płacz*, чэшск. *plač*; **lъgja* > рус. *ложь*, балг. *лъжа*, чэшск. *lež*; **douchja* > бел. *душа*, польск. *dusza*, чэшск. *duše*.

Сярод спалучэнняў, зменены пад уплывам наступнага *j*, спалучэнні санорных *л, н, р* з *j* займаюць асобнае месца. Паколькі ў гэтых спалучэннях зычны, памякчаны наступным *j*, супаў са сваім парным мяккім: *л — л', н — н', р — р'*, прычым наступны *j* асіміляваўся папярэднім санорным: **polja* > бел. *палю*, рус. *полю*;

*volja> бел. *воля*, рус. *воля*, польск. *wola*, сербск. *воља; *konjos>* бел. *конь*, рус. *конь*, польск. *koń*, сербск. *коњ; *bourja>* бел. *бура*, рус. *буря*, чэшск. *bouře*, балг. *буря*.

У выніку памякчэння губных у становішчы перад *j* праз мяккі *л'*, што развіўся на месцы *j* перад губнымі, адбылася гістарычная змена зычных: *bj> бл', pj>пл', wj>вл', mj>мл': *lubjo>люблю, * kupjo>куплю, *lowjo>лаўлю, *zemja>земля.* Падобная змена ўласціва паўднёваславянскім мовам: балг. *купля*, сербскахарв. *ку̑пља, ло̏вља, земља*, славен. *zemlja*, але не сустракаецца ў заходнеславянскіх мовах (польск. *kupia, ziemia*, чэшск. *konpě, země*), якія ў гэтых адносінах захоўваюць больш даўнюю фанетычную рысу, паколькі з'яўленне мяккага *л'* пасля губных зычных у мове ўсходніх і паўднёвых славян — пазнейшая фанетычная асаблівасць. У пачатковым складзе перад галосным ва ўсіх славянскіх мовах на месцы спалучэнняў губной зычнай з *j* знаходзім спалучэнне «губны зычны з *л'*»: *bjudo>* бел. *блюда*, рус. *блюдо*, польск. *bluda*, балг. *блюдо*, сербск. *бљудо*, **pjujon>* бел. *плюю*, польск. *pluję*, чэшск. *plivati*, балг. *плювам*.

Вынікі змен спалучэнняў *tj, dj* у славянскіх мовах розныя. Можна меркаваць, што зарадзіліся яны ў позні перыяд агульнаславянскай эпохі, калі ўжо пачалося выдзяленне трох славянскіх моўных груп. Ва ўсходніх славян спалучэнне *tj* змянілася на *ч*, а *dj* на *ж: *svētja> свяча, *medja> мяжа, *sadja> сажа;* у заходнеславянскіх мовах на месцы *tj* і *dj* утварыліся *c, dz(z):* чэшск. *svíce, meza*, польск. *swieca, miedza, sadza, macocha*, а ў паўднёваславянскіх — *жд, шт(щ):* балг. *между, сажда, мащеха, свещ*.

У выніку агульнага працэсу памякчэння зычных адбылося памякчэнне заднеязычных [г], [к], [х] перад галоснымі пярэдняга рада [і], [ь], [е], [ē] 〉 [ě]. Гэта памякчэнне называюць першай палаталізацыяй (лац. palatum 'паднябенне'). Першая палаталізацыя — вынік таго, што цвёрдыя заднеязычныя [г], [к], [х], прыпадабняючыся да наступнага галоснага, супадалі з больш пярэднімі мяккімі [ж'], [ч'], [ш']. Прычым галосны пярэдняга рада *ē* [е] > [ě], перад якім заднеязычныя змяніліся ў шыпячыя, пасля гэтых новых мяккіх зычных змяніўся ў *a: *krikētei>kric̆'ati*, усх.-сл. *кричати*, бел. *крычаць; *gērъ>z̆'erъ*, бел. *жар; *mēchetei>mĕš'atu> мѣшати*. Першая палаталізацыя дала аднолькавыя вынікі ва ўсіх славянскіх мовах. На яе аснове сфарміраваўся шэраг гістарычных чаргаванняў [г—ж], [к—ч], [х—ш]: **drugina>druž'ina*, бел. *дружына*, рус. *дружина*, балг. *дружина*, сербскахарв. *дружина*, польск. *drużyna*, чэшск. *družina, *plakjo >* бел. *плач* рус. *плачь*, балг. *плач*, польск. *placz*, чэшск. *plač; *grěchъ — *grěchьnikъ— grěš'nikъ*, бел. *грэх — грэшнік*, польск. *grzech — grzeszny*, балг. *грях — грешен*.

Другая палаталізацыя адбылася перад [і], [е], якія развіліся з дыфтонгаў [o͡i], [a͡i]. У гэтых умовах [г], [к], [х] пераходзілі ў [з'], [ц'], [с']: **go͡ilo>*s'ělo*, рус. *зело* (уст. *зело* 'вельмі'); **ko͡ina> цѣна* бел. *цана; *mouchai>*mus'ě*, бел. *муха — мусе*. Асабліва шырока другая палаталізацыя была прадстаўлена пры словазмяненні назоўнікаў: **drougo͡i>druz'i> друзи* (назоўны склон мн. л. ад *другъ*); **nogai> noz'ě> нозѣ; *ranko͡i>rąc'ě> руцѣ*. Чаргаванні, якія ўзніклі ў выніку другой палаталізацыі, захоўваюцца ўсімі славянскімі мовамі, акрамя рускай, дзе яны страціліся ў гістарычны час, пасля таго як заднеязычныя ў славянскіх мовах перасталі быць толькі цвёрдымі: усх.-сл. *мусѣ, руцѣ, нозѣ*, рус. *мухе, руке, ноге*. У заходнеславянскіх мовах у выніку змянення [ch] перад [і], [ě] узнік зычны [š'], а не [s']: польск. *musze*, чэшск. *mouše*.

Вынікі трэцяга памякчэння заднеязычных супадаюць з вынікамі другога, г. зн. гукі [г], [к], [х] пры трэцяй палаталізацыі таксама пераходзілі ў свісцячыя [з], [ц], [с]. Такое змяненне адбывалася пасля галосных пярэдняга рада [і], [ь], [е]: **kъnęgъ>kъněd'z'ь> кънęзь*, рус. *князь; *dēvika>devic'a> дѣвица*. У беларускіх назвах ягад захаваўся гэты гістарычны пераход, які дайшоў да нас з агульнаславянскай эпохі як вынік трэцяй палаталізацыі *(чарніца, брусніца, дурніца, суніца)*.

Такім чынам, першы круг асаблівасцей у фанетычнай структуры ўсіх славянскіх моў датычыцца агульнаславянскай спадчыны. Утвораныя ў гэты перыяд у выніку фанетычных змен мяккія шыпячыя *ж', ч', ш'*, свісцячыя *ц', з', с'*, а таксама санорныя *р', л', н'* былі ўнаследаваны агульнаўсходнеславянскай мовай.

Вылучэнне ўсходніх славян з агульнаславянскага адзінства (прыкладна ў 6—7 ст. н. э.) у моўных адносінах суправаджалася развіццём працэсаў, вынікі якіх уласцівы ўсім усходнім славянам і адрозніваюць іх ад паўднёвых і заходніх. Перыяд усходнеславянскага моўнага адзінства пакінуў у спадчыну беларускай мове цэлы шэраг з'яў, цяпер агульных для мовы рускіх, беларусаў і ўкраінцаў.

Вынікам фанетычных змен праславянскіх спалучэнняў [о] і [е] з плаўнымі зычнымі [г] і [l] у становішчы паміж зычнымі (спалучэнняў тыпу *tort, tert, tolt, telt*) стала поўнагалоссе. Змены спалучэнняў адбываліся шляхам развіцця галоснага пасля плаўнага [г], [l], прычым гэты галосны быў такім, як і галосны перад плаўным. Такім чынам, з праслав. *bergъ, gordъ, zolto* развіліся: бел. *бераг, горад, золата;* рус. *берег, город, золото;* укр. *берег, золото*. Напісанне прыведзеных слоў з *a* адлюстроўвае акаючае вымаўленне, уласцівае беларускай мове. У спалучэнні *telt* першапачатковы [е] пад уплывам цвёрдага [л] змяніўся на [о]: *melko> молоко*. Наяўнасць поўнагалосся адрознівае ўсходнеславянскія мовы ад паўднёвых і заходнеславянскіх моў, у якіх дзейнасць закону адкрытага складу выклікала перастаноўку папярэдняга плаўнага і наступнага галоснага. У выніку атрымалася, што паўднёвым (балгарскай), а таксама чэшскай і славацкай з заходніх моў характэрныя спалучэнні *ра, ла, ре, ле:* балг. *бряг, град, злато, мляко;* чэшск. *hrad, vrána;* польск.— *ro, lo, rze, le: grod, złoto, brzeg, mleko*.

Характэрнай асаблівасцю ўсходнеславянскіх моў з'яўляецца вымаўленне *ч* і *ж(дж)* на месцы агульнаславянскіх спалучэнняў **tj, *kt, *gt, *dj: *cvětja>* бел. *свечка, *noktь> ноч, *pektь> пячы, *beregti> берагчы, *sadjati > сяджу;* рус. *свеча, ночь, печь, беречь, сижу;* укр. *свічка, ніч, сижу;* у гэтых спалучэннях у паўднёваславянскіх мовах вымаўляецца *шт, жд:* балг. *свещ, нощ, саждам*, а ў заходнеславянскіх — *ц* і *з(дз):* польск. *swieca, noc, piec, sadzać, miedza;* чэшск. *svíce, noc, peci, mez, mezi*.

Змены галосных няпоўнага ўтварэння — адна з асноўных з'яў усходнеславянскай мовы, якая істотным чынам змяніла яе гукавую сістэму і наблізіла да сучаснага стану. Падзенне рэдукаваных заключалася ў тым, што гукі [ъ] і [ь] як самастойныя перасталі існаваць. У слабай пазіцыі яны перасталі вымаўляцца, а ў моцнай на іх месцы пачалі вымаўляцца галосныя поўнага ўтварэння [о], [е] *(тьща→теща, дьнь→ден', клѣтька → клетка)*. Падзенне рэдукаваных — гэта працэс, уласцівы ўсім славянскім мовам, але ў розных мовах ён даў розныя вынікі. Адзін з непасрэдных вынікаў страты рэдукаваных галосных — гэта чаргаванне галоснага з нулём гука (беглыя галосныя). Так, рэдукаваны ў адной і той жа аснове мог быць то ў слабай, то ў моцнай пазіцыі. У моцнай ён перайшоў у галосны поўнага ўтварэння, у слабай — страціўся *(сътьня — съто > сотня — сто, коньць — коньця > канец — канца)*. Гэты тып чаргавання знаходзім галоўным чынам у іменных асновах *(дзень — дня, пень — пня, сон — сну, леў — ільва, лоб — ілба)*. У выпадку далучэння суфікса бегласць галоснага звычайна пераходзіць на яго. Пры гэтым колькі б ні далучалася суфіксаў, яна заўсёды ўласціва апошняму суфіксу ў слове: *замок — замка, замочак — замочка, замочачак — замочачка* і г. д.

Да раздзялення агульнаўсходне-

славянскай мовы на асобныя мовы ўзнік працэс змены [е] на [о]. Фанетычнай умовай гэтай змены была пазіцыя [е] пасля мяккага зычнага перад цвёрдым (*дзень — дзён, вяселле — вясёлы, месці — мёў*). Уздзеянне наступнага зычнага на папярэдні галосны магло быць найбольш інтэнсіўным пасля падзення рэдукаваных, калі ў шэрагу выпадкаў абодва гэтыя гукі апынуліся ў межах аднаго складу (*несъ — н'ес — н'ос, овьсь — ов'ес — ав'ос*). У беларускай мове пераход [ъ] у [о] і [ь] у [е(э)] выклікаў *лабіялізацыю* наступнага цвёрдага *л* і змяненне яго на *ў* (*маўчаць — мълчати, воўк — вълкъ*); завяршыўся ён яшчэ да зацвярдзення шыпячых (*нясеш, мяцеш, цешча*). У рускай мове шыпячыя зацвярдзелі раней, чым у беларускай, тады пераход [е] у [о] быў яшчэ жывым фанетычным працэсам, таму маем *не*[*с'ош*], *ме*]*т'ош*], *тёща*.

Выяўляючы асаблівасці ўсходнеславянскіх моў, што адрозніваюць іх ад заходніх і паўднёвых славянскіх моў, трэба адзначыць, што ў беларускай мове існуе шэраг рысаў, якія з'яўляюцца агульнымі толькі з рускай або толькі з украінскай мовамі. Усё гэта тлумачыцца гістарычнымі шляхамі ўтварэння і развіцця беларускай мовы. Развіццё новых фанетычных рысаў адбывалася ў прасторы і часе. Узнікшы на пэўнай тэрыторыі ў розныя перыяды гісторыі, яны распаўсюджваліся ў асобных дыялектах і мовах і ўтварылі тыя асаблівасці, якія характарызуюць сучасны стан мовы. У галіне фанетыкі ёсць асаблівасці, якія збліжаюць беларускую мову з рускай у адрозненне ад украінскай:

1) Захаванне спрадвечных [о] і [е] у новым закрытым складзе (узнік у выніку падзення рэдукаваных галосных: *сто-лъ* і *стол, ко-нь* і *кон'*). Ва ўкраінскай мове на іх месцы вымаўляецца [і]. Параўнайце беларускія *нос, стол, рок, ноч;* рускія *нос, стол, рок, ночь;* украінскія *ніс, стіл, рік, ніч.*

2) У беларускай і рускай мовах пасля мяккага зычнага перад цвёрдым на месцы [е] пад націскам вымаўляецца [о], а ва ўкраінскай мове захавалася [е]: бел. *цёмны, зялёны, прынёс;* рус. *тёмный, зелёный, принёс;* укр. *темний, зелений, приніс.*

3) Змякчэнне ўсіх парных цвёрдых-мяккіх зычных перад [е] у беларускай і рускай мовах і захаванне іх цвёрдасці — ва ўкраінскай: бел. *дз'ен', в'ечар, м'ан'е;* рус. *д'ен', в'еч'ер, м'ен'а;* укр. *дэн', вэчир, мэнэ.*

4) Адрозненне гукаў [і] і [ы] у беларускай і рускай мовах пры наяўнасці ва ўкраінскай мове аднаго гука, сярэдняга паміж [і] і [ы], перад якім зычныя не змякчаюцца: бел. *быць* і *біць, мыла* і *міла;* рус. *быть* і *бить, мыло* і *мило;* укр. *бити* (*'быць'* і *'біць'*), *мило* (*'мыла'* і *'міла'*).

У фанетыцы таксама ёсць рысы, агульныя для беларускай і ўкраінскай моў у адрозненне ад рускай:

1) Наяўнасць фрыкатыўнага [γ] у беларускай і ўкраінскай мовах на месцы выбухнога [g] у рускай мове: бел. *γорад, γусь;* укр. *γород, γусь;* рус. *gород, gусь.*

2) У беларускай і ўкраінскай мовах адбылося падаўжэнне зычных на месцы ўсходнеславянскага спалучэння «мяккі зычны+*ь*'+*j*», у рускай мове тут вымаўляецца спалучэнне мяккіх зубных і шыпячых з *j*: бел. *плацце, карэнне, суддзя;* укр. *плаття, коріння, суддя;* рус. *платье, коренья, судья.*

3) У каранях слоў паміж зычнымі ў беларускай і ўкраінскай мовах вымаўляецца *ры, лы,* у рускай мове — *ро, ло:* бел. *крышыць, глытаць;* укр. *кришити, глитати;* рус. *крошить, глотать.*

У выніку гістарычных змен гукаў у фанетычнай сістэме беларускай мовы развіліся і характэрныя асаблівасці, неўласцівыя нават блізкароднасным мовам. Руская і ўкраінская мовы, напрыклад, не ведаюць уласцівага для беларускай мовы дзекання і цекання, г. зн. вымаўлення мяккіх [д] і [т] з свісцячым прыгукам. Усходнеславянскім памякчаным [д], [т] (рус. *дед, дети, тихо;* укр. *дід, діти, тихо*) сталі адпавядаць беларускія мяккія афрыкаты [дз'], [ц'] (*дзед, дзеці, ціха*). Беларуская літаратурная мова мае [р] толькі цвёрды, тады як рускай і ўкраінскай мовам уласцівы цвёрды і мяккі [р]: бел. *рад, карыта, гарыць;* рус. *рад* і *ряд, корыто, горит;* укр. *рад* і *ряд, корито, горіти* і г. д.

Шматлікія гістарычныя змены гукаў абумовілі фанетычныя асаблівасці беларускай мовы і вызначылі яе асобнае месца ў шэрагу іншых славянскіх моў.

*Літ.:* Янкоўскі Ф. М. Гістарычная граматыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1989; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984; Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1—8. Мн., 1978—93.

*В. П. Русак.*

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА

Мовазнаўства — адна са старэйшых галін беларускай нацыянальнай навукі, хоць грунтоўнае навуковае вывучэнне беларускай мовы пачалося толькі ў першай палове 19 ст. Мовазнаўчыя працы на тэрыторыі Беларусі найперш звязаны са з'яўленнем граматык, буквароў, азбук, слоўнікаў царкоўнаславянскай мовы. Беларуская («простая») мова тут выкарыстоўваецца як матэрыял для «вырозуменья» царкоўнаславянскай (стараславянскай) мовы. Пэўную цікавасць маюць і так званыя «глосы», словы, якія выпісваліся і тлумачыліся «на боцѣхъ» (на палях) старажытных кніг (Ф. Скарына, В. Цяпінскі).

У першым славяна-беларускім слоўніку Л. Зізанія «Лексис сиреч речения, въкратъце събранны и из словенскаго языка на простый рускій диялект истолкованы» (1596; гл. **«Лексіс» Л. Зізанія**), прыкладзеным да буквара пад назвай «Наука ку читаню и розуменю писма словенского...», даецца 1061 слова.

Вялікую каштоўнасць мае і другі друкаваны слоўнік — «Лексикон славеноросский и имён толкование» П. Бярынды (1627; гл. **«Лексікон славенароскі» П. Бярынды**). Праца П. Бярынды поўнасцю ўключае не толькі «Лексіс...» Л. Зізанія, але і іншыя тагачасныя лексікаграфічныя крыніцы (азбукоўнікі, гласарыі, прыточнікі), а таксама шматлікія глосы з рукапісных і друкаваных твораў (усяго ў слоўніку прыводзіцца амаль 7 тысяч рэестравых слоў). Дасканаласць апрацоўкі лексічнага матэрыялу, шырокае выкарыстанне як агульнаўжывальных слоў, так і ўласных імёнаў усходнеславянскага і іншамоўнага паходжання характарызуе «Лексікон» П. Бярынды як вялікае дасягненне старажытнай усходнеславянскай лексікаграфіі, які аказаў надзвычай моцны ўплыў на далейшую лексікаграфічную распрацоўку ўсходнеславянскіх моў.

Акрамя слоўнікаў, на тэрыторыі Беларусі ствараліся і выдаваліся таксама буквары і граматыкі як практычныя дапаможнікі пры вывучэнні царкоўнаславянскай мовы. Першай граматыкай была выдадзеная ў 1586 г. ў Вільні ў друкарні братоў Мамонічаў невялічкая «Кграматыка словеньска языка...», якая прызначалася «для наученья и вырозумѣнья бжественнаго писаня». У 1596 г. з'явілася грунтоўная «Грамматика словенска...» Л. Зізанія (гл. **«Граматыка» Л. Зізанія**), складзеная ў форме пытанняў і адказаў, прычым адказы ў ёй даюцца не толькі па-царкоўнаславянску, але і «па-руску», г. зн. па-беларуску («Что есть Грамматіка; Грамматіка есть, ізвѣстное вѣжство, еже благо глаголати и писати. Толкованіе. Грамматіка есть певное вѣдане, жебысмы добре мовили и писали»).

Дасягненнем усходнеславянскай граматычнай думкі стала выдадзеная ў 1619 г. ў Еўі (пад Вільняй) «Грамматики славенския правилное Синтагма...» М. Сматрыцкага (гл. **«Граматыка» М. Сматрыцкага**), якая на працягу многіх дзесяцігоддзяў да выхаду ў свет «Граматыкі» М. Ламаносава з'яўлялася асноўным падручнікам для вучняў і ўзорам для аўтараў іншых граматык. Сматрыцкі не толькі здолеў узняць «занедбаный язык», растлумачыўшы многія з'явы

кніжнай царкоўнаславянскай мовы і замацаваўшы яе важнейшыя нормы, але і ўвёў у граматыку шматлікія народна-гутарковыя з'явы. У 1618 г. ў Еўі быў выдадзены і першы ўсходнеславянскі буквар — «Букварь языка славенска, писаний чтения оучитися хотящим в полезное руковожение». Склалі яго манахі Святадухаўскага манастыра ў Вільні, дзе ў той час жыў і М. Сматрыцкі. Граматычны раздзел буквара нагадвае сціслы канспект «Граматыкі» М. Сматрыцкага, які, несумненна, прымаў удзел у падрыхтоўцы гэтага выдання. Дакладнасць і прадуманасць кампазіцыі кнігі, агульнадаступнасць матэрыялу, адметнае мастацкае афармленне зрабілі «Буквар» 1618 г. своеасаблівым узорам для іншых складальнікаў школьна-вывучэбных кніг. У 1634 г. напісана на латыні, але не надрукавана (вядома ў двух рукапісных варыянтах) «Граматыка славенская» І. Ужэвіча (гл. **«Граматыка» І. Ужэвіча**).

Рукапісныя і друкаваныя граматыкі, слоўнікі і буквары 16—17 ст. сведчаць пра значны ўзровень філалагічнай навукі на Беларусі. Яны аказвалі ўздзеянне на старабеларускае пісьменства з боку уніфікацыі і стандартызацыі літаратурных норм, садзейнічалі вывучэнню і апісанню семантыкі слоў, уводзілі ў навуковы ўжытак народна-размоўныя формы.

У Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова была дзяржаўнай. Аднак з сярэдзіны 17 ст. на беларускіх землях паступова пашыраецца польска-лацінскае пісьменства, ствараюцца неспрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай мовы, якая з прыняццем у 1696 г. сеймам Рэчы Паспалітай пастановы аб забароне афіцыйнага карыстання ёю застаецца толькі ў вусным маўленні народа.

Новы этап у вывучэнні беларускай мовы пачынаецца з 19 ст., калі ў тагачасным грамадстве ўзрасла цікавасць да этнаграфіі беларускага народа і яго дыялектаў. Шмат цікавых звестак аб лексічных, фразеалагічных, фанетычных і граматычных асаблівасцях беларускай мовы, яе гісторыі, межах тэрытарыяльнага распаўсюджання сустракаецца ў этнаграфічных працах А. Кіркора «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—59), Е. Р. Раманава «Нарыс побыту жабракоў Магілёўскай губерні і іх умоўная мова» (1890), М. Нікіфароўскага «Нарысы Віцебскай Беларусі» (1892—99) і інш. Лінгвістычны матэрыял у гэтых працах даволі павярхоўны, мае пераважна даведачны характар.

У 19 ст. распачаліся спрэчкі адносна характару беларускай мовы. Адны даследчыкі (С. Ліндэ, Я. Чачот, М. Надзеждзін, М. Максімовіч, К. Калайдовіч) беларускую мову разглядалі як самастойную і заклікалі яе вывучаць, іншыя (У. Даль, В. Багародзіцкі, А. Будзіловіч, І. Лапо, А. Сабалеўскі, І. Сразнеўскі і інш.) беларускую мову лічылі гаворкай рускай (велікарускай) мовы. З найбольш сур'ёзных работ першай паловы 19 ст., прысвечаных беларускай мове, акрамя артыкула К. Ф. Калайдовіча «Пра беларускую гаворку» (1822), неабходна адзначыць прадмову Яна Чачота да 6-га тома сабраных ім фальклорных матэрыялаў «Сялянскія песні...» (Вільня, 1846). Акрамя агульнай характарыстыкі беларускай мовы і спроб вызначыць яе важнейшыя рысы ў галіне фанетыкі і марфалогіі, Ян Чачот прывёў невялікі слоўнік і каля 200 прыказак і прымавак.



**Бібліяграфічныя паказальнікі па беларускім мовазнаўстве (1825—1975). 1967—80.**

У 19 ст. навуковым вывучэннем беларускага пісьменства плённа займаўся І. І. Грыгаровіч (гл. **Грыгаровіч Іван Іванавіч**), які першы распачаў публікацыю беларускіх пісьмовых помнікаў («Беларускі архіў старажытных грамат». Ч. 1, 1824). Пазней ён стаў галоўным рэдактарам Археаграфічнай камісіі, і пры яго непасрэдным удзеле выйшлі «Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» (т. 1—5. 1846—53) — важнейшыя крыніцы вывучэння старабеларускай літаратурнай мовы.

На сярэдзіну 19 ст. прыпадае таксама некалькі неапублікаваных работ, якія засталіся ў архівах: «Слоўнік і каранясловў беларускай мовы» (1845) і «Заўвагі беларусца пра беларускую мову» П. М. Шпілеўскага (1853; гл. **Шпілеўскі Павел Міхайлавіч**), «Граматыка беларускай гаворкі» К. Нядзведскага (1854).

У другой палове 19 ст. пачалася навуковая дзейнасць выдатнага беларускага філолага І. І. Насовіча (гл. **Насовіч Іван Іванавіч**). У гісторыю беларускага мовазнаўства ён увайшоў як аўтар першага гістарычнага слоўніка беларускай мовы — «Алфавітнага паказальніка старажытных беларускіх слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» (у рукапісе). Шырокую вядомасць і славу яму прынёс «Слоўнік беларускай мовы» (1870; гл. **«Слоўнік беларускай мовы» І. Насовіча**). У слоўнік увайшло больш за 30 тысяч слоў, запісаных аўтарам у Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губернях, а таксама выбраных з твораў вуснай народнай творчасці, помнікаў старабеларускага пісьменства. Двухмоўны па сваім характары, тлумачальны беларуска-рускі слоўнік Насовіча стаў найбольш поўным на той час зборам лексікі і фразеалогіі жывой народнай мовы, з'явіўся важнай крыніцай абагачэння лексікі новай беларускай літаратурнай мовы. Працуючы над слоўнікам, І. І. Насовіч не мог абмінуць чыста лінгвістычных пытанняў. Апошнім часам даследчыкам удалося выявіць неапублікаваную прадмову да «Слоўніка» пад назвай «Спроба кароткага філалагічнага назірання над беларускай мовай».

На другую палову 19 ст. прыпадае таксама навуковая дзейнасць беларускага вучонага-архівіста і мовазнаўца М. І. Гарбачэўскага, які ў 1874 г. выдаў першы гісторыка-тэрміналагічны слоўнік беларускай мовы — «Слоўнік старажытнай актавай мовы Паўночна-Заходняга краю і царства Польскага». У слоўніку тлумачыцца каля 400 беларускіх і больш за 5 тысяч лацінска-польскіх юрыдычных тэрмінаў, што ўжываліся ў старабеларускім пісьменстве 14—17 ст.

У 1871 і 1872 гг. вядомы даследчык мовы старажытных помнікаў І. П. Навіцкі выдаў невялічкі «Даведачны слоўнік юрыдычных тэрмінаў старажытнай актавай мовы паўднёва-заходняй Расіі», у якім дадзена лексікаграфічная расшыфроўка каля 600 розных паводле паходжання юрыдычных, ваенных і гаспадарча-бытавых тэрмінаў старога беларуска-ўкраінскага пісьменства.

У 19 ст. паяўляюцца шматлікія публікацыі этнаграфічных матэрыялаў. На гэты перыяд прыпадае дзейнасць такіх вядомых беларускіх этнографаў і фалькларыстаў, як А. Я. Багдановіч, У. М. Дабравольскі (гл. **Дабравольскі Уладзімір Мікалаевіч**), М. В. Доўнар-Запольскі, Я. Карловіч, М. Я. Нікіфароўскі, Е. Р. Раманаў (гл. **Раманаў Еўдакім Раманавіч**), А. К. Сержпутоўскі (гл. **Сержпутоўскі Аляксандр Казіміравіч**), М. Федароўскі, П. В. Шэйн і інш. Пры апісанні фальклорнай і этнаграфічнай спадчыны беларускага народа яны давалі разнастайны моўны каментарый, звярталі ўвагу на фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці мясцовых гаворак. Фальклорныя запісы станавіліся для многіх лінгвістаў асновай пры напісанні арыгінальных прац.

Развіццю беларускага мовазнаўства ў 19 ст. садзейнічалі таксама публікацыі і апісанне помнікаў старабеларускага пісьменства. Так, створаная ў 1864 г. Віленская камісія для разбору і выдання старажытных актаў апублікавала на працягу 1864—

1915 гг. 49 тамоў (матэрыялы копных і земскіх судоў, дакументы гарадскіх судоў і магістратаў, інвентары староствау, зборнік палеаграфічных здымкаў са старажытных грамат і актаў і інш.). Шырока выдаваліся летапісы, рэлігійныя і палемічныя працы, навуковыя і мастацкія творы. Публікацыя старажытных помнікаў і фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў дазваляла аб'ектыўна строга і глыбока навукова даследаваць самыя складаныя пытанні беларускай мовы. Беларускамоўны фактычны матэрыял не толькі супастаўляецца ў параўнальна-гістарычных даследаваннях айчынных лінгвістаў, але і становіцца асновай для напісання спецыяльных прац.

У 1880 г. быў апублікаваны артыкул К. Ю. Апеля «Аб беларускай мове», у якім зроблена спроба апісаць найбольш важныя рысы беларускай мовы ў галіне фанетыкі і марфалогіі. Некаторыя звесткі з беларускай дыялекталогіі і гісторыі беларускай мовы можна знайсці ў працах М. А. Коласава «Агляд гукавых і фармальных асаблівасцей народнай рускай мовы» (1878), А. А. Патабні «Два даследаванні пра гукі рускай мовы» (1864—65), І. А. Нядзёшава «Гістарычны агляд найважнейшых гукавых і марфалагічных асаблівасцей беларускіх гаворак» (1884) і інш.

Значны ўклад у развіццё беларускага мовазнаўства ў канцы 19 — пачатку 20 ст. ўнеслі вядомыя рускія лінгвісты А. І. Сабалеўскі і А. А. Шахматаў. Акадэмік А. І. Сабалеўскі ўпершыню ў практыцы універсітэцкага выкладання стварыў самастойны курс рускай дыялекталогіі (апублікаваны ў 1892 г. пад назвай «Нарыс рускай дыялекталогіі»), у якім абагульніў і прывёў у сістэму разнастайны дыялекталагічны матэрыял усходнеславянскіх моў. Беларускія гаворкі ён падзяліў на 2 групы ў залежнасці ад характару змены *ц* і *ч* — цокаючыя і няцокаючыя. Аднак такі падзел нельга лічыць удалым, паколькі ў аснове яго ляжыць неістотная рыса для беларускай фанетыкі. Разнастайныя з'явы беларускай мовы закраналіся і ў работах акадэміка А. А. Шахматава, які асабліва плённа распрацоўваў праблемы паходжання ўсходнеславянскіх моў, выдзяляючы пры гэтым гістарычную і дагістарычную эпохі ў іх развіцці. Вучоны адзін з першых звярнуў увагу на такую яркую рысу беларускага кансанантызму, як дзеканне і цеканне, і прапанаваў сваю гіпотэзу яго паходжання (т. зв. ляшская тэорыя). У яго працах даследуюцца таксама аканне (яканне), фрыкатыўны характар гука [г], зацвярдзеласць шыпячых, ***р*** і ***ц***, пераход ***в*** і ***л*** у ***ў*** і інш.

У канцы 19 — пачатку 20 ст. працягваўся збор і публікацыя шматлікіх фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, выйшлі з друку і рыхтаваліся дыялектныя слоўнікі. Так, значная колькасць беларускай лексікі прыводзіцца ў «Смаленскім этнаграфічным зборніку» (ч. 1, 1891; ч. 4, 1903) і «Смаленскім абласным слоўніку» (1914) У. М. Дабравольскага. Каля 2000 беларускіх слоў сабраў і адаслаў у Акадэмію навук Е. Р. Раманаў, ён жа грунтоўна даследаваў і некаторыя ўмоўныя гаворкі на тэрыторыі Беларусі (дрыбінскіх шапавалаў, магілёўскіх і мінскіх жабракоў). Амаль 200 тысяч слоў і іх разнастайных форм налічвалася ў слоўніку жывой беларускай мовы Я. Ціхінскага. Беларускія словы ў ім пісаліся лацінкай і транскрыбіраваліся кірыліцай, перакладаліся на польскую і рускую мовы. Аднак гэтая буйнейшая лексікаграфічная праца так і засталася ў рукапісе. Невялічкія слоўнікі як дадаткі да фальклорна-этнаграфічных зборнікаў апублікавалі П. Шэйн, М. Нікіфароўскі.

Публікацыя і апісанне шматлікіх помнікаў старабеларускага пісьменства ў канцы 19 — пачатку 20 ст. выклікалі цікавасць даследчыкаў і да гісторыі мовы. Так, акадэмік А. І. Сабалеўскі ў працы «Перакладная літаратура Маскоўскай Русі 14—17 стагоддзяў» (1903) адзначыў уплыў беларускага пісьменства на велікарускую літаратуру, прывёў значны спіс беларускамоўных помнікаў. Агульны агляд старажытных помнікаў, што былі створаны на тэрыторыі Беларусі і Украіны, даў П. У. Уладзіміраў. У артыкуле «Агляд паўднёварускіх і заходнярускіх помнікаў пісьменства ад XI да XVII ст.» (1890) ён адзначыў, што «ў 15—17 ст. у помніках паўднёва-заходняй Русі заўважаюцца дзве плыні ў пісьменстве: адна — заходнярuская, якая падтрымлівалася афіцыйным правапісам і моваю грамат, з рысамі беларускай гаворкі, другая — паўднёваруская, з асаблівасцямі некаторых маларускіх гаворак, з правапісам — пераважна так званым сярэднебалгарскім». Акрамя таго, П. У. Уладзіміраў апублікаваў вялікую манаграфію «Доктар Францыск Скарына: Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» (1888), шэраг артыкулаў, прысвечаных пасобным помнікам старабеларускага пісьменства.

Вывучэннем помнікаў беларускага пісьменства займаліся таксама А. Брукнер, М. М. Карпінскі, У. М. Перэтц, А. С. Архангельскі, А. С. Будзіловіч, С. К. Буліч, А. М. Весялоўскі, Ф. М. Ільінскі і інш. Аднак найбольшы ўклад у распрацоўку беларускай мовы ў дарэвалюцыйны час зрабіў акадэмік Я. Ф. Карскі (гл. **Карскі Яўхім Фёдаравіч**) — заснавальнік беларускага мовазнаўства і беларускай філалогіі.

Навуковая дзейнасць Я. Ф. Карскага была надзвычай плённай і разнабаковай. Ён аўтар больш як тысячы работ, прысвечаных актуальным праблемам славістыкі, беларусістыкі і русістыкі. Пачаўшы сваю навуковую дзейнасць са збірання вуснай народнай творчасці і вывучэння помнікаў старажытнага беларускага пісьменства («Два помнікі старой заходнярускай мовы», 1893; «Пра мову так званых Літоўскіх летапісаў», 1894; «Заходнярускія пераклады псалтыра ў 15—17 стагоддзях», 1896, і інш.), Я. Ф. Карскі паступова назапашваў матэрыялы для сваёй галоўнай працы — шматтомнай манаграфіі «Беларусы» (кн. 1—7, 1903—22; гл. **«Беларусы» Я. Карскага**).

У двух першых тамах «Беларусаў» Я. Ф. Карскі даў закончанае вучэнне аб гукавым і граматычным ладзе старабеларускай і сучаснай беларускай мовы ў яе народна-дыялектнай і літаратурнай формах, стварыў цэласную карціну фарміравання, станаўлення і развіцця мовы і літаратуры беларускага народа, заклаў трывалыя асновы для далейшага развіцця беларускага мовазнаўства.

Пачатак 20 ст. азнаменаваўся прыкметным ажыўленнем кнігавыдавецкай дзейнасці. У гэты час арганізуюцца беларускія выдавецтвы «Загляне сонца і ў наша аконца», «Наша ніва», «Мінчук», «Палачанін» і інш. Выдаюцца першыя вучэбныя дапаможнікі для школ Цёткі «Першае чытанне для дзетак-беларусаў» (1906), К. Каганца «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» (1906), Я. Коласа «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» (1909).

Маючы пэўныя здабыткі ў галіне вывучэння беларускай мовы ў 19 — пачатку 20 ст., беларускае мовазнаўства значных поспехаў дасягнула пасля 1917 г. Ужо ў 1918 г. былі надрукаваны першыя падручнікі па беларускай мове, сярод якіх найбольшае значэнне мела «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча (гл. **«Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча**). Аўтар яе даволі паслядоўна вызначыў граматычныя рысы беларускай мовы, дакладна сфармуляваў асноўныя прынцыпы і правілы беларускай арфаграфіі. «Граматыка» з'явілася асновай для складання іншых падручнікаў па беларускай мове, найперш Я. Лёсіка (гл. **Лёсік Язэп Юр'евіч**), паклала пачатак навуковай распрацоўцы правапісных і граматычных норм беларускай мовы.

У 1920-я гады бурна развівалася беларуская лексікалогія і лексікаграфія. Неабходнасць пашырыць і ўнармаваць лексічныя сродкі беларускай мовы, даць усім патрэбныя даведнікі абумовілі інтэнсіўную распрацоўку і выданне розных слоўнікаў, як правіла, перакладных. Адной з першачарговых задач гэтага часу

стала стварэнне беларускай нацыянальнай тэрміналогіі, здольнай абслугоўваць усе важнейшыя сферы сацыяльна-грамадскага жыцця рэспублікі. У пачатку 1921 г. да ажыццяўлення гэтай задачы прыступіла Навукова-тэрміналагічная камісія, а ў 1922 г. заснаваны на яе базе Інстытут беларускай культуры. На працягу 1922—1930-х гадоў было апрацавана і выдадзена 24 тэрміналагічныя галіновыя слоўнікі (выпускі): па граматыцы, логіцы, батаніцы, геаграфіі і інш. (гл. **«Беларуская навуковая тэрміналогія»).** Выйшлі з друку «Руска-беларускі слоўнік» М. і Г. Гарэцкіх (1918), «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік» М. Гарэцкага (1919), «Практычны расійска-беларускі слоўнік» М. Байкова і М. Гарэцкага (1924), «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік» З. Верас (1924), «Практычны беларускі вайсковы слоўнік» М. Байкова і А. Бараноўскага (1927), «Беларуская праўная тэрміналогія» М. Гуткоўскага (1927), «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча (1925) і «Расійска-беларускі слоўнік» гэтых жа аўтараў (1928) і інш., з'явіліся буйныя лексікаграфічныя працы дыялектнага характару — «Віцебскі краёвы слоўнік: Матэрыялы» М. І. Каспяровіча (1927), «Падручны беларуска-польскі слоўнік» Б. Друцкага-Падбярэскага (Вільня, 1929), «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» М. В. Шатэрніка (1929).

Актыўна вывучаецца лексічны матэрыял народных гаворак. М. Я. Байкоў, П. А. Бузук, І. В. Воўк-Левановіч, Я. Ф. Карскі, М. І. Каспяровіч, С. М. Некрашэвіч, П. А. Растаргуеў і інш. выступаюць у друку з артыкуламі і рэцэнзіямі, заахвочваюць грамадскасць вывучаць мясцовыя гаворкі, рыхтуюць і публікуюць інструкцыі і практычныя парады па зборы і апісанні дыялектнага матэрыялу. У гэты ж час распачынаецца абмеркаванне спрэчных пытанняў беларускага правапісу, граматыкі і графікі, якое стала асноўнай тэмай Акадэмічнай канферэнцыі ў 1926 г. (гл. **Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі)** і завяршылася ў 1933 г. выданнем Інстытута мовазнаўства АН БССР «Праекта спрашчэння беларускага правапісу». Пасля яго абмеркавання ўрад БССР прыняў пастанову «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», якая ўпершыню ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы стала афіцыйным законам. Пастанова абвясціла агульнадзяржаўнымі, г. зн. абавязковымі пры вядзенні справаводства, у кнігадрукаванні, школьным выкладанні і інш. пэўныя нормы беларускага правапісу і граматыкі (гл. **Рэформа беларускага правапісу 1933 года).**




**А. І. Жураўскі, А. А. Крывіцкі. «Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР» (вокладка). 1979.**

На аснове пастановы ў 1934 быў выдадзены «Правапіс беларускай мовы», які дзейнічаў да 1 студзеня 1958 года.

На рубяжы 1920—30-х гг. распрацоўкай пытанняў беларускай мовы займаецца П. А. Бузук (гл. **Бузук Пётр Апанасавіч).** Яго цікавілі пераважна пераходныя беларускія гаворкі, што мяжуюць з украінскімі. У 1928 г. ён публікуе абагульняльную працу па беларускай дыялекталогіі — «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі. Ч. 1. Фанетыка і марфалогія. Вып. 1. Гаворкі Цэнтральнай і Усходняй Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Вялікарасіі ў першай чвэрці XX в.». Вывучэннем беларускіх гаворак у той час займаліся і некаторыя рускія, польскія і ўкраінскія моваведы. Пасобныя заўвагі і спецыяльныя артыкулы па беларускай дыялекталогіі апублікавалі Г. А. Ільінскі, М. В. Коген, Л. Асоўскі, М. Дурнаво, В. Ганцоў, І. Р. Галанаў і інш.

Такім чынам, у перадваенны час Інстытутам мовы і літаратуры АН БССР быў сабраны найбагацейшы дыялекталагічны матэрыял, які, на жаль, беззваротна загінуў у полымі Вялікай Айчыннай вайны.

Побач з практычнымі даследаваліся і тэарэтычныя пытанні беларускай мовы, найперш звязаныя з яе гісторыяй (Я. Ф. Карскі, П.А. Растаргуеў, П. А. Бузук, І. В. Воўк-Левановіч і інш.).

У 1930-я гг. ствараюцца першыя навуковыя курсы сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Пачынальнікам у гэтай справе стаў Ц. П. Ломцеў, які ў 1935 г. выдаў кнігу «Беларуская граматыка. Фанетыка і правапіс», а ў 1936 г. ў сааўтарстве з іншымі вучонымі — «Беларускую граматыку. Марфалогію». У 1941 г. ён апублікаваў адну з буйнейшых прац «Даследаванні ў галіне гісторыі беларускага сінтаксіса: Састаўны выказнік і яго змяненні ў гісторыі беларускай мовы». Выйшлі яго «Сінтаксіс беларускай мовы» (1939) і «Курс сучаснай беларускай мовы. Фанетыка, марфалогія. Лексіка» (1940). У 1937 г. быў выдадзены адзін з найбольш значных перакладных слоўнікаў даваеннага часу — «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй А. Александровіча, рэестравая частка якога ахоплівала амаль 40 тысяч слоў.

Беларускае мовазнаўства ў перадваенны час дасягнула значных поспехаў. Аднак плённае вывучэнне беларускай мовы ў значнай меры стрымлівалася з-за неапраўданых рэпрэсій супраць многіх лінгвістаў, негатыўным стаўленнем да развіцця нацыянальнай культуры, якое вынікала з сацыяльна-арганізацыйнай сутнасці сталінскай сістэмы бюракратызму і тэрарызму. Ахвярамі сталінскіх рэпрэсій сталі многія даследчыкі беларускай мовы, сярод якіх Я. Лёсік, Б. Тарашкевіч, М. Байкоў, П. Бузук, І. Воўк-Левановіч, М. Гарэцкі, С. Некрашэвіч і інш.

Рэпрэсіі 1930-х гг. і страты ў Вялікую Айчынную вайну прывялі да таго, што ў першыя пасляваенныя гады многае давялося пачынаць нанова. Паступова вывучэнне беларускай мовы зноў ажывілася. У Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, на кафедрах беларускай мовы вышэйшых навучальных устаноў пачалі распрацоўвацца найбольш актуальныя праблемы сучаснай беларускай літаратурнай мовы, вырасла новае пакаленне моваведаў.

Пасля вайны ў Інстытуце мовазнаўства АН БССР была створана Арфаграфічная камісія на чале з Я. Коласам і К. Крапівой. Яна распрацавала «Праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу» (1951), у абмеркаванні якога прынялі ўдзел вучоныя, пісьменнікі, настаўнікі. Вынікам гэтага абмеркавання з'явілася пастанова Савета Міністраў БССР «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу» (11 мая 1957 г.). З улікам гэтай пастановы былі выдадзены падрыхтаваныя Інстытутам мовазнаўства АН БССР «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959) і «Арфаграфічны слоўнік» М. П. Лобана і М. Р. Судніка (1 выд. 1961). Усе гэтыя мерапрыемствы дазволілі стабілізаваць беларускі правапіс, літаратурная мова набыла неабходную ўпарадкаванасць.

У 1957—61 гг. выйшаў калектыўны трохтомны «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы», які стаў не толькі асноўным вучэбным дапаможнікам для студэнтаў-філолагаў, але і адыграў пэўную ролю ў станаўленні норм сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Двухтомны падручнік «Беларуская мова» для педвучылішчаў і пэдінстытутаў склалі М. І. Гурскі,

М. Г. Булахаў і М. Ц. Марчанка (ч. 1—2, 1955—58). У Маскве выходзяць з друку вучэбныя дапаможнікі па сучаснай беларускай літаратурнай мове для вышэйшай школы Ц. П. Ломцева — «Беларуская мова» (1951) і «Граматыка беларускай мовы» (1956); «Нарыс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі» (1958) выдае П. Я. Юргелевіч.

Манаграфічныя даследаванні розных граматычных катэгорый беларускай мовы, зробленыя М. Г. Булахавым (прыметнік), М. А. Жыдовіч (назоўнік), А. А. Крывіцкім (займеннік), Ю. Ф. Мацкевіч (дзеяслоў), Д. А. Лявончанка (дзеепрыметнік), П. П. Шубай (прыслоўе), А. І. Наркевічам, А. К. Юрэвіч (назоўнік) і інш., сталі асновай стварэння акадэмічнай граматыкі беларускай мовы. Першы том яе, прысвечаны марфалогіі, выйшаў у 1962 г.

У канцы 1950 — пачатку 60-х гг. пачалася выпрацоўка асноўных правіл вымаўлення, падрыхтоўка першых практычных рэкамендацый і дапаможнікаў. Упершыню арфаэпія разглядалася ў артыкуле М. В. Бірылы «Да пытання аб фарміраванні і важнейшых нормах беларускага літаратурнага вымаўлення» (1958), у працах Ф. М. Янкоўскага «Беларускае літаратурнае вымаўленне» (1960) і «Пытанні культуры мовы» (1961). Больш фундаментальна пытанні арфаэпіі распрацоўваліся ў працах А. І. Падлужнага «Нормы беларускага літаратурнага вымаўлення» [Сучасная беларуская мова: (Пытанні культуры мовы), 1973], «Уводзіны. Фанетыка і вымаўленне» (Беларуская мова для небеларусаў. 2 выд. 1978; у сааўтарстве з А. А. Крывіцкім і А. Я. Міхневічам) і інш.

Тады ж пачалося таксама даследаванне акцэнтуацыі беларускай мовы. Некаторыя аспекты месца націску ў парадыгме зменных слоў сталі прадметам даследаванняў М. П. Лобана «Націск назоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове» (1953), Я. М. Івашуціч «Націск дзеясловаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове» (1971), Л. М. Вардамацкага «Слоўны націск назоўнікаў у сучасных усходнеславянскіх літаратурных мовах» (1974) і інш. Больш падрабязна, з улікам сучасных дасягненняў, акцэнтуацыя беларускай літаратурнай мовы распрацавана ў «Беларускай граматыцы» (ч. 1, 1985), а таксама ў буйнейшым на сённяшні дзень «Слоўніку беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (1987).

Буйнейшым дасягненнем беларускіх дыялектолагаў 1950—60-х гадоў стала выданне «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963; гл. **«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы»**), які быў складзены на аснове матэрыялу, сабранага экспедыцыйным шляхам у 1200 населеных пунктах,— першае даследаванне такога роду ва ўсходнеславянскіх мовах. Пачынаючы з 1960-х гг. амаль штогод выходзяць дыялекталагічныя даведнікі, рэгіянальныя слоўнікі, прадметна-тэматычныя падборкі лексікі і інш.: 3 выпускі «Дыялектнага слоўніка» Ф. М. Янкоўскага (1959, 1960, 1970), 3 выпускі «Матэрыялаў для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» пад рэдакцыяй М. А. Жыдовіч (1970, 1974, 1977), «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (т. 1—5, 1979—86), «Тураўскі слоўнік» (т. 1—5, 1982—87), «Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі» (т. 1, 1990), слоўнікі М. В. Абабуркі, Е. С. Мяцельскай і Я. М. Камароўскага, П. У. Сцяцко, Т. Ф. Сцяшковіч, Л. Ф. Шаталавай, Г. Ф. Юрчанкі, Т. С. Янковай, Р. М. Яўсеева і інш.

Побач з лексікаграфічнымі распрацоўкамі тых ці іншых гаворак беларускія дыялектолагі падрыхтавалі апісальна-тэарэтычныя даследаванні дыялектных з'яў: «Ненаціскны вакалізм народных гаворак Беларусі» Н. Т. Вайтовіч (1968), «Палессе: (Лінгвістыка. Археалогія. Тапаніміка)» (1968), «Лексіка Палесся ў прасторы і часе» (1971), «Лічэбнік у беларускіх гаворках» А. І. Чабярук (1977) і інш.

У пасляваенныя гады пачалося грунтоўнае вывучэнне сінтаксісу беларускай мовы. Артыкулы і дысертацыйныя даследаванні Г. М. Базыленкі, М. Г. Булахава, Л. І. Бурака, А. П. Груцы, І. І. Крамко, Б. С. Лапава, Д. А. Лявончанкі, А. І. Наркевіча, М. С. Яўневіча і інш. з'явіліся асновай акадэмічнай «Граматыкі беларускай мовы. Т. 2. Сінтаксіс» (1966). Розныя праблемы сінтаксісу асвятляюцца ў манаграфіях Л. П. Падгайскага «Словазлучэнне ў беларускай мове» (1971), А. І. Наркевіча «Сістэма словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове» (1972), Л. І. Бурака «Далучэнне ў сучаснай беларускай мове» (1975), Н. В. Гаўрош «Наміnатыўныя сказы ў сучаснай беларускай мове» (1975), А. Я. Міхневіча «Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы» (1976), М. С. Яўневіча «Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове» (1977) і інш., новым акадэмічным выданні «Беларуская граматыка. Сінтаксіс» (1986).

У пасляваенны час пачалося і вывучэнне беларускай анамастыкі. Першыя грунтоўныя навуковыя працы гэтага новага для беларускага мовазнаўства кірунку належаць М. В. Бірылу, які апублікаваў трохтомнае даследаванне пад агульнай назвай «Беларуская антрапанімія» (1966, 1969, 1982). У гэты ж час шырокую работу па вывучэнні беларускай тапанімікі разгарнуў В. А. Жучкевіч («Тапаніміка Беларусі», 1968; «Кароткі тапанімічны слоўнік Беларусі», 1974). Іх працы паклалі пачатак навуковай распрацоўцы іншых відаў анамастычных назваў — айканіміі (назвы паселішчаў) і мікратапаніміі (назвы ўгоддзяў). Гэтыя даследаванні прадстаўлены калектыўнымі зборнікамі «Пытанні беларускай тапанімікі» (1970), «Мікратапанімія Беларусі» (1974), а таксама работамі В. П. Лемцюговай «Беларуская айканімія» (1970), «Усходнеславянская айканімія апелятыўнага паходжання» (1983), Я. М. Адамовіча «Мікратапанімічныя назвы» (1971) і І. Я. Яшкіна «Беларускія геаграфічныя назвы» (1971) і інш. Унікальным даведнікам сталі 6 выпускаў слоўніка назваў населеных пунктаў Я. Н. Рапановіча (1977, 1980—83, 1986), у якіх прыводзіцца каля 25 тысяч назваў паселішчаў усіх абласцей Беларусі.

У пасляваеннай лінгвістычнай навуцы значная ўвага ўдзяляецца распрацоўцы пытанняў гісторыі беларускай літаратурнай мовы, з'яўляюцца такія новыя для беларускага мовазнаўства кірункі, як гістарычная лексікаграфія, этымалогія, фразеалогія, эксперыментальная фанетыка і інш. У 1957 г. выходзяць «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» — першы спецыяльны вучэбны дапаможнік для вышэйшай школы, ствараюцца вучэбныя дапаможнікі для ВНУ, выдаецца двухтомная «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы» (ч. 1—2, 1961—62), «Нарысы гісторыі беларускай літаратурнай мовы» Л. М. Шакуна (1960), двухтомная «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» А. І. Жураўскага, І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч (1967—68). Выходзяць марфалагічныя даследаванні па гістарычнай фанетыцы, лексікалогіі, марфалогіі беларускай мовы А. М. Булыкі («Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы», 1970; «Даўнія запазычанні беларускай мовы», 1972; «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове 14—18 стст.», 1980), В. М. Чэкмана («Гісторыя проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ў беларускай мове», 1970), Ф. М. Янкоўскага («Гістарычная граматыка беларускай мовы», 3 выд. 1989), А. К. Антановіча («Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма», 1968), М. А. Жыдовіч («Назоўнік у беларускай мове. Ч. 1. Адзіночны лік», 1969), М. Г. Булахава («Прыметнік у беларускай мове», 1964; «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы 14—18 стагоддзяў. Ч. 2. Сінтаксічны нарыс», 1971; «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы. Ч. 3. Лексікалагічны нарыс», 1973), А. П. Груцы («Развіццё складаназалежнага сказа ў беларускай мове», 1970), І. С. Козы-

рава («Нарысы па параўнальна-гістарычнай лексікалогіі рускай і беларускай моў», 1970), А. Я. Баханькова («Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд: Сацыялінгвістычны нарыс», 1982), «Гістарычныя запіскі» Ф. Еўлашоўскага» У. М. Свяжынскага (1990) і інш. Супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі выдаюцца «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (1970), «Гістарычная марфалогія беларускай мовы» (1979), «Мова беларускай пісьменнасці 14—18 стст.» (1988), выходзяць паасобныя помнікі старабеларускага пісьменства: «Александрыя» (1962), «Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 года» (1960) і 1588 г. (1989), «Прадмовы і пасляслоўі Ф. Скарыны» (1969), «Лісты Ф. С. Кміты-Чарнабыльскага» і «Баркулабаўская хроніка» (1975) і інш. З'яўляецца значная колькасць даследаванняў па гістарычным словаўтварэнні (П. В. Вярхоў, М. А. Паўленка, П. У. Сцяцко, М. С. Васілеўскі і інш.), лексікалогіі (В. А. Бекіш, Н. І. Гілевіч, З. А. Зяневіч, В. А. Купрэенка, У. М. Лазоўскі, К. У. Скурат, І. В. Шадурскі і інш.), тэрміналогіі (Л. А. Антанюк, М. Ф. Гуліцкі, Л. А. Камко, А. І. Кісялеўскі, В. П. Красней, У. Ц. Піскун і інш.). У 1972 г. завяршылася падрыхтоўка картатэкі для «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», якая налічвае больш за 1 млн. картак. Пачынаючы з 1982 г. гэты слоўнік выдаецца (выйшла 13 выпускаў).

З сярэдзіны 1960-х гг. у беларускім мовазнаўстве разгарнулася работа па стварэнні «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (выйшла 8 тамоў, 1978—93). У Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі прайшло некалькі сімпозіумаў па праблемах беларускай этымалогіі, выйшлі асобныя зборнікі навуковых прац («Лексічныя балтызмы ў беларускай мове», 1969; «Беларуска-украінскія ізалексы», 1971; «Беларуска-рускія ізалексы», 1973, і інш.).

Аднак, нягледзячы на значную колькасць даследаванняў па гісторыі беларускай мовы, усё ж у цэнтры ўвагі мовазнаўцаў было вывучэнне сучаснай беларускай мовы — фанетыкі, марфалогіі, лексікалогіі і лексікаграфіі, фразеалогіі, культуры мовы, мовы і стылю пісьменнікаў, сінтаксісу.

Вылучаюцца грунтоўныя вучэбныя дапаможнікі для філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў Г. М. Малажай, Л. І. Бурака, Я. М. Камароўскага і Е. С. Мяцельскай, П. У. Сцяцко, М. Ц. Кавалёвай, П. Я. Юргелевіча, П. П. Шубы, М. С. Яўневіча, В. П. Краснея, М. Я. Цікоцкага, Л. І. Сямешкі.

Пачынае развівацца эксперыментальнае даследаванне фанетыкі беларускай мовы, апісанне артыкуляцыі гукаў беларускай літаратурнай мовы на аснове палатаграм, рэнтгенаграм, фота- і кіназдымкаў маўлення Падлужнага А. І. «Фаналагічная сістэма беларускай літаратурнай мовы» (1969), Падлужнага А І. і Чэкмана В. М. «Гукі беларускай мовы» (1973), Крывіцкага А. А. і Падлужнага А. І. «Фанетыка слова ў беларускай мове» (1983) і інш. Выйшлі калектыўныя манаграфіі «Галосныя беларускай мовы» (1975), «Фанетыка беларускай літаратурнай мовы» (1989).

Значна актывізавалася работа па стварэнні розных відаў слоўнікаў. Акрамя шматтомных гістарычнага, тлумачальнага і этымалагічнага слоўнікаў, да важнейшых лексікаграфічных набыткаў сучаснага беларускага мовазнаўства належаць «Падручны польска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй А. Абрэмбскай-Яблонскай і М. Бірылы (1962), акадэмічныя перакладныя «Руска-беларускі слоўнік» (1953), які пасля перапрацоўкі пад рэдакцыяй К. Крапівы перавыдадзены ў 2 т. у 1982 і ў 1991 і «Беларуска-рускі слоўнік» (1962; перавыдадзены ў 2 т. у 1989), «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—84), «Марфемны слоўнік беларускай мовы» А. М. Бардовіча і Л. М. Шакуна (1975, 2 выд. 1989), «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» М. К. Клышкі (1976), «Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» М. П. Пазнякова (1988), «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў» І. Я. Лепешава (1981), «Фразеалагічны слоўнік» для сярэдняй школы Н. В. Гаўрош, І. Я. Лепешава і Ф. М. Янкоўскага (1973), «Украінска-беларускі слоўнік» В. П. Лемцюговай (1980), «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі» (1970), «Частотны слоўнік беларускай мовы» Н. С. Мажэйкі і А. Я. Супруна (1976, 1979, 1982, 1989, 1992), «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» Г. У. Арашонкавай і В. П. Лемцюговай (1987), «Слоўнік націску ў беларускай мове» М. В. Бірылы (1992) і інш.

У сучасным беларускім мовазнаўстве асаблівае значэнне надаецца пытанням культуры мовы, мовы і стылю паасобных беларускіх пісьменнікаў, радыё, друку, тэлебачання. За апошнія дзесяцігоддзі выйшлі як калектыўныя манаграфіі [«Сучасная беларуская мова: (Пытанні культуры мовы)», 1973], так і кнігі па стылістыцы беларускай мовы (М. Я. Цікоцкага, А. К. Юрэвіч, Ф. М. Янкоўскага, А. А. Каўруса, Т. І. Тамашэвіча і інш.). Пытанням культуры мовы прысвечаны артыкулы і нататкі многіх беларускіх пісьменнікаў (Н. Гілевіча, Я. Брыля, М. Лужаніна, Я. Скрыгана, А. Клышкі і інш.). У рэспубліцы распачата выданне зборніка «Культура мовы журналіста», карыстаюцца папулярнасцю брашуры з серыі «Скарбы мовы», адрасаваныя вучням сярэдніх школ рэспублікі. Факсімільным выданнем «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча ў 1991 г. выдавецтва «Народная асвета» распачало серыю кніг «Беларуская мова: гісторыя і сучаснасць». У 1993 г. ў гэтай серыі факсімільна выдадзены «Беларуска-расійскі слоўнік» (1926) М. Байкова і С. Некрашэвіча.

Значна ўзраслі міжнародныя кантакты паміж беларускімі і іншымі славянскімі і неславянскімі моваведамі, трывала ўвайшлі ў практыку міжнародныя славістычныя сімпозіумы і канферэнцыі, навуковыя чытанні і сесіі. Грунтоўнымі навуковымі працамі быў адзначаны 500-гадовы юбілей Ф. Скарыны: у 1990 г. ў Мінску прайшла міжнародная канферэнцыя «Славяне: адзінства і мнагастайнасць», выйшлі 2-томны «Слоўнік мовы Скарыны» (1977, 1984) У. В. Анічэнкі, манаграфія «Мова выданняў Францыска Скарыны» (1990) А. М. Булыкі, А. І. Жураўскага, У. М. Свяжынскага і інш.

Беларускія моваведы, завяршыўшы ў цэлым збор і сістэматызацыю фактычнага матэрыялу, а таксама вырашэнне многіх практычных і прыватных навуковых пытанняў, працуюць над стварэннем фундаментальных прац, паспяхова асвойваюць новыя кірункі ў мовазнаўстве. Яны прымаюць актыўны ўдзел у распрацоўцы «Палескага этналінгвістычнага атласа», працуюць над складаннем слоўнікаў мовы твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, лексічнага атласа беларускіх народных гаворак. Супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі разам з выкладчыкамі мовазнаўчых кафедраў вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі працуюць над вывучэннем такіх кардынальных праблем, як функцыянальнае развіццё беларускай літаратурнай мовы і ўдасканаленне яе структуры ў сучасную эпоху, займаюцца актуальнымі славістычнымі і агульналінгвістычнымі праблемамі беларусістыкі і інш.

*Літ.*: Беларускае мовазнаўства: Бібліягр. указ. (1825—1965 гг.). Мн., 1967; Беларускае мовазнаўства: Бібліягр. паказ. (1966—1975). Мн., 1980; Барышнікава К. К., Падлужны А. І. Эксперыментальна-фанетычныя даследаванні ў Беларусі // Бел. лінгвістыка. Мн., 1974. Вып. 5; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды: Биобиблиогр. словарь. Т. 1—3. Мн., 1976—78; Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы. Мн., 1985; Гуліцкі М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1978; Жураўскі А. І., Крывіцкі А. А. Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР. Мн., 1979; Мартынаў В. У. Развіццё славянскага мовазнаўства ў Беларусі // Бел. лінгвістыка. Мн., 1973. Вып. 3; Суднік М. Р. Мовазнаўчая навука Беларусі на этапе развітога сацыялізма // Тамсама. 1978. Вып. 12. *М. Р. Прыгодзіч.*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Пры вывучэнні гісторыі кожнай мовы звычайна маюць на ўвазе яе ўнутраную і знешнюю гісторыю. Унутраная гісторыя — гэта тыя змены, якія з цягам часу адбыліся ў фанетыцы, граматыцы і лексіцы той або іншай мовы. Пад знешняй гісторыяй разумеюць тое, якую тэрыторыю займала мова ў пэўныя гістарычныя перыяды, як выкарыстоўвалася яна ў пісьменстве, у грамадскім і культурным жыцці, у школьным навучанні і г. д. Тут звернем увагу галоўным чынам на знешнюю гісторыю беларускай літаратурнай мовы, паколькі яе ўнутраная гісторыя ў большай ці меншай ступені асвятляецца пры характарыстыцы канкрэтных помнікаў пісьменства.

Асаблівасцю гісторыі беларускай літаратурнай мовы старажытнага перыяду з'яўляецца тое, што яна складвалася паступова шляхам насычэння мясцовымі моўнымі рысамі тэкстаў на старажытнарускай літаратурнай мове — агульнай пісьмовай мове ўсходніх славян 11—14 ст. Таму вывучэнне гісторыі старабеларускай літаратурнай мовы прынята пачынаць з разгляду старажытнарускай літаратурнай мовы як зыходнага этапу ў гісторыі кожнай з усходнеславянскіх літаратурных моў. Праблеме паходжання і развіцця літаратурнай мовы ўсходніх славян прысвечана вялікая навуковая літаратура. Аднак некаторыя пытанні гэтай складанай праблемы ўсё яшчэ застаюцца спрэчнымі і канчаткова нявырашанымі. Паміж даследчыкамі няма адзінства поглядаў адносна часу ўзнікнення пісьменства ва ўсходніх славян, характару ўзаемадзеяння царкоўнаславянскай і старажытнарускай літаратурных моў, аб суадносінах гэтых літаратурных моў з народна-дыялектнай гутарковай мовай і інш.

У наш час большасць даследчыкаў сцвярджае, што ў Старажытнай Русі існавала літаратурнае двухмоўе. Яго прадстаўляла: 1) царкоўнаславянская (стараславянская) літаратурная мова двух тыпаў: а) уласна царкоўнаславянская мова — мова богаслужэбнай і тэматычна блізкай да яе літаратуры, перакладзенай з грэчаскіх крыніц або створанай у Балгарыі і іншых славянскіх краінах, якая перапісвалася і чыталася на Русі; б) славяна-руская мова — мова напісаных усходнімі славянамі арыгінальных твораў, у якіх пераважала царкоўнаславянская моўная аснова, але ў большай ці меншай ступені выкарыстоўваліся сродкі ўсходнеславянскай народнай мовы; 2) старажытнаруская літаратурная мова таксама двух тыпаў: а) мова мастацка-апавядальнай літаратуры, усходнеславянская ў сваёй аснове, але з шырокім выкарыстаннем царкоўнаславянскіх сродкаў; б) мова дзелавога пісьменства і прыватнай перапіскі, заснаваная на жывой мове ўсходніх славян з нязначнымі царкоўнаславянскімі элементамі.

Да помнікаў царкоўнаславянскай мовы эпохі Кіеўскай Русі адносяцца перапісаныя са старабалгарскіх арыгіналаў евангеллі і псалтыры, а таксама арыгінальныя творы тыпу «Жыціе Феадосія Пячэрскага», «Сказанне пра Барыса і Глеба», «Слова аб законе і боскай ласцы» мітрапаліта Іларыёна і інш. Старажытнаруская літаратурная мова на народнай аснове адлюстравана ў такіх творах, як «Аповесць мінулых гадоў», «Павучанне Уладзіміра Манамаха», «Слова пра паход Ігаравы», «Руская праўда» і інш.

Адзначаныя віды пісьменства існавалі і на заходнярускіх землях, дзе неўзабаве ўзнікла беларуская народнасць. Тут таксама перапісваліся на царкоўнаславянскай мове евангеллі і псалтыры, некаторыя з іх зберагліся і цяпер захоўваюцца ў бібліятэках Санкт-Пецярбурга і Масквы. З арыгінальных рэлігійных твораў асабліва вылучаюцца словы, казанні і павучанні выдатнага прамоўцы і публіцыста 12 ст. Кірылы Тураўскага (гл. **Кірыла Тураўскі**). Яго словы і пропаведзі вызначаліся бліскучай знешняй формай. Кірыла ўмела выкарыстоўваў вытанчаныя прыёмы візантыйскіх прапаведнікаў, яго творы насычаны алегорыямі, супрацьпастаўленнямі, параўнаннямі і іншымі сродкамі аратарскай мовы. Да таго ж часу адносіцца і дзейнасць пісьменніка Аўраамія Смаленскага, які складаў асобныя зборнікі паводле твораў старажытных царкоўных прапаведнікаў Іаана Златавуста і Яфрэма Сірына. З агіяграфічнай літаратуры таго часу цяпер вядомы «Жыціе Ефрасінні Полацкай», створанае, відаць, у Полацку неўзабаве пасля яе смерці, і «Жыціе Аўраамія Смаленскага», напісанае яго вучнем Яфрэмам у Смаленску на пачатку 13 ст.

На заходнярускіх землях побач з царкоўнаславянскай працягвала ўжывацца і старажытнаруская літаратурная мова. Даследаваннямі апошняга часу ўстаноўлена, што ў 12—13 ст. існавала мясцовае полацкае летапісанне, пра што сведчаць урыўкі з іншых летапісаў з падрабязным апісаннем полацкіх падзей. Тып старажытнарускай літаратурнай мовы атрымаў асабліва шырокае прымяненне на беларускіх землях у дзелавым пісьменстве. Ён прадстаўлены вялікай колькасцю дзелавых помнікаў 13—14 ст., з якіх да нашага часу дайшлі: Дагаворная грамата смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г. ( гл. **Дагаворная грамата смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г.**), Грамата Гердзеня 1264 г., Грамата полацкага князя Ізяслава каля 1265 г., Грамата полацкага епіскапа Якава каля 1300 г., Грамата рыжан да віцебскага князя Міхаіла каля 1300 г., Дагавор Полацка з Рыгай каля 1330 г., Грамата караля Уладзіслава князю Скіргайлу 1387 г. і інш.

Аб пашырэнні ў старажытнасці на Беларусі пісьменства бытавога прызначэння сведчаць такія помнікі эпіграфікі, як надпіс на крыжы Ефрасінні Полацкай 1161 г. (гл. **Ефрасіння Полацкая**), надпісы на камянях, высечаныя ў гонар полацкага князя Барыса ў першай трэці 12 ст., і надпіс на камені 1171 г. ў гонар князя Рагвалода. Яшчэ ў 19 ст. вядома было 8 надпісаў на камянях, якія знаходзіліся ў межах былога Полацкага княства, але захавалася іх толькі палавіна. Уяўленне пра бытавое выкарыстанне пісьменства заходнярускім насельніцтвам значна пашыраецца дзякуючы знаходкам берасцяных грамат пры будаўнічых работах у гарадах Беларусі. Адна з іх была знойдзена ў 1959 г. ў Віцебску, другая — у 1980 г. ў Мсціславе.

На працягу 14—16 ст. пачала складвацца беларуская народнасць з уласцівай ёй моваю, асноўныя асаблівасці якой захоўваюцца ў ёй да нашага часу. Аднак старажытныя кніжнікі ў пісьменстве строга прытрымліваліся традыцыйных старажытнарускіх граматычных і лексічных норм, таму новыя моўныя рысы ў пісьмовых помніках на першых парах адлюстроўваліся толькі зрэдку ў выглядзе паасобных апісак. Прыкладна з сярэдзіны 15 ст. пісьменства на тэрыторыі Беларусі насычаецца спецыфічна беларускімі асаблівасцямі ў такой меры, што пачынаючы з гэтага часу ёсць ужо ўсе падставы гаварыць пра беларускую літаратурную мову, якая сваімі арфаграфічнымі, граматычнымі і лексічнымі рысамі прыкметна адрознівалася ад старажытнарускай літаратурнай мовы, але цалкам не перарвала сувязей з ёй. У беларускім пісьменстве старажытнага перыяду беларуская пісьмовая мова мела назву «рускій языкъ». Азначэнне «рускій» у складзе гэтага тэрміна паходзіць ад этноніма «Русь», якім у шматнацыянальным Вялікім княстве Літоўскім абазначалася тая частка ўсходнеславянскага насельніцтва, што ўваходзіла ў склад гэтага княства. Назва «белорусскій языкъ» пачала ўжывацца толькі ў сярэдзіне 17 ст. ў Рускай дзяржаве. Агульная назва «Белая Русь» упершыню таксама адзначаецца ў гістарычных крыніцах іншамоўнага, а не беларускага паходжання.

У беларускім пісьменстве эпохі народнасці традыцыі літаратурнай мовы Кіеўскай Русі асабліва тры-

вала захоўваліся ў графіцы і арфаграфіі. Для беларускіх кніжнікаў не было неабходнасці ствараць азбуку, бо патрэбы пісьменства задавальняліся атрыманай у спадчыну ад старажытнарускай эпохі графічнай сістэмай. Беларускае пісьмо прайшло ўсе тыя стадыі развіцця, якія вядомы былі тагачаснаму рускаму і ўкраінскаму пісьменству — устаў, паўустаў і скорапіс. Адпаведна гэтаму крыху мяняўся склад літар і іх абрысы. Асабліва прыкметныя адрозненні выпрацаваліся ў беларускім скорапісе ў параўнанні з рускім. У помніках беларускага паходжання перасталі ўжывацца некаторыя старажытныя дублетныя літары, у сувязі з чым графічная сістэма на беларускай глебе крыху спрасцілася. У 17 і 18 ст. некаторыя помнікі беларускага пісьменства запісваліся лацінкай польскага варыянта і ў такім выглядзе дайшлі да нашага часу [«Ліст да Абуховіча» (гл. **«Ліст да Абуховіча»**), «Хроніка Быхаўца» (гл. **Хроніка Быхаўца**) і інш.].

У ранні перыяд старажытнарускага пісьменства арфаграфія грунтавалася на фанетычным прынцыпе, які ў старабеларускую эпоху ператварыўся ў гісторыка-этымалагічны. З-за кансерватызму пісьма новыя фанетычныя з'явы беларускай мовы не адлюстроўваліся, у сувязі з чым намецілася разыходжанне паміж напісаннем і вымаўленнем. Такія характэрныя рысы беларускай мовы, як аканне і яканне, дзеканне і цеканне, у старабеларускіх тэкстах адлюстраваны толькі ў выглядзе рэдкіх памылак, але яны ніколі не ўтваралі арфаграфічную норму. Значэнне варыянтнай нормы мелі толькі такія з'явы, як супадзенне ў вымаўленні гукаў *ѣ* і *е*, што адлюстроўвалася ў напісаннях тыпу *бѣлый — белый, лѣто — лето, сѣно — сено*, пераход *у* і *в* у *ў* (*у* нескладовае: *взѧти — узѧти, внукъ — унукъ, учити — вчити*) і зацвярдзенне шыпячых і *р* (*причина — прычына, жито — жыто, врѧдъ — урадъ*). Такая фанетызацыя правапісу больш шырока праводзілася ў дзелавым пісьменстве, у значна меншай меры — у свецка-мастацкіх і рэлігійных творах.

На Беларусі ў 15 — першай палове 17 ст. самым распаўсюджаным было дзелавое (актавае, канцылярска-юрыдычнае) пісьменства (гл. **Канцылярска-юрыдычнае пісьменства 15—17 ст.**). Да яго адносяцца шматлікія акты, граматы, дагаворы і статуты. Распаўсюджанню гэтага віду пісьменства садзейнічаў факт, што ў Вялікім княстве Літоўскім, у склад якога ўваходзіла тады Беларусь, беларуская мова стала дзяржаўнай. Многа дзелавых дакументаў гэтага часу паходзіць з канцылярый літоўскіх князёў і польскіх каралёў — Казіміра Вялікага, Ягайлы, Альгерда, Вітаўта, Жыгімонта Кейстутавіча, Казіміра Ягелончыка, Жыгімонта І. Першапачаткова ў розных частках Вялікага княства Літоўскага існавала некалькі мясцовых варыянтаў актавай мовы, якія адрозніваліся некаторымі асаблівасцямі, пераважна арфаграфічнымі і граматычнымі. Пазней, пры каралю Жыгімонце ІІ Аўгусце, рэгіянальныя тыпы актавай мовы зніклі. Канцылярская мова Вялікага княства Літоўскага ў гэты час выступала як беларуская. Яна грунтавалася на паўночных беларускіх гаворках, што бытавалі каля Вільні. Актавае пісьменства на беларускай моўнай аснове выкарыстоўвалася на тэрыторыі этнічнай Літвы і ў паўночнай частцы Украіны, дзе афарбоўвалася некаторымі мясцовымі фанетычнымі рысамі. На гэтай мове пісаліся прызначаныя для Вялікага княства Літоўскага дзелавыя дакументы ў каралеўскіх канцылярыях Кракава і Варшавы. Моўныя нормы гэтых дакументаў служылі ўзорамі і аказвалі ўздзеянне на іншыя жанры тагачаснага беларускага пісьменства.

Выпрацаваныя ў 15 і пачатку 16 ст. важнейшыя заканадаўчыя акты і кодэксы пазней былі сістэматызаваны і аформлены ў выглядзе статутаў Вялікага княства Літоўскага трох рэдакцый — 1529, 1566 і 1588 гг. Буйным помнікам канцылярска-юрыдычнага пісьменства з'яўляецца Метрыка Вялікага княства Літоўскага (гл. **Метрыка Вялікага княства Літоўскага**), дзе змяшчаюцца дакументы ад 14 да канца 18 ст. У склад метрыкі ўваходзяць разнастайныя па змесце і форме дакументы, якія выдаваліся літоўскімі князямі і польскімі каралямі, сеймам і ўрадавымі асобамі або паступалі ад іх да іншаземных урадаў, службовых і прыватных асоб. Дакументы метрыкі ад 14 да сярэдзіны 17 ст. напісаны пераважна на беларускай мове, пазнейшыя — на польскай і лацінскай мовах. У першапачатковым выглядзе метрыка мела больш за 600 тамоў. Цяпер большая частка яе кніг захоўваецца ў Цэнтральным архіве старажытных актаў у Маскве.

У 16 і 17 ст. на беларускай мове вялася дакументацыя ў гарадскіх управах, магістратах і магдэбургіях, у гарадскіх, земскіх і замкавых судах, яна выкарыстоўвалася ў дыпламатычнай і прыватнай перапісцы і г. д. Дзелавое пісьменства было самым прагрэсіўным паводле адлюстравання рысаў жывой беларускай мовы.

Сярод жанрава-стылявых разнавіднасцей пісьменства эпохі беларускай народнасці адно з вядучых месц як па колькасці вядомых помнікаў, так і па разнастайнасці жанраў належыць свецка-мастацкай літаратуры. Самым старажытным і пашыраным жанрам гэтага віду пісьменства з'яўляюцца летапісы (гл. **Летапісы**). На Беларусі, як і ў іншых частках усходняга славянства, перапісваліся старажытнарускія летапісныя зводы. Тыповымі ўзорамі такіх помнікаў можна лічыць Радзівілаўскі, або Кёнігсбергскі, спіс другой паловы 15 ст. і так званы летапіс Аўраамкі, перапісаны ў Смаленску манахам Аўраамкам у 1495 г. Адносна рана на Беларусі ўзнікла мясцовае летапісанне. Ужо ў канцы 14 — пачатку 15 ст. яно складала важнейшую частку тагачаснага літаратурнага працэсу. Аднак раннія беларускія летапісы захаваліся толькі ў пазнейшых спісах, з якіх Нікіфараўскі, Слуцкі і Віленскі адносяцца да канца 15 ст., а каля двух дзесяткаў астатніх — да 16 і 17 ст. У старэйшых спісах яшчэ трывала захоўваюцца архаічныя моўныя рысы. Пазнейшыя ўжо не маюць іх, яны цалкам грунтуюцца на сродках тагачаснай беларускай літаратурна-пісьмовай мовы.

У 16 і першай палове 17 ст. беларускае свецка-мастацкае пісьменства значна павялічылася колькасна і пашырылася ў жанравых адносінах. Афіцыйнае дзяржаўнае летапісанне дапоўнілася гістарычнымі запіскамі мясцовага характару [Баркулабаўскі летапіс (гл. **Баркулабаўскі летапіс**)], мемуарнымі творамі [«Гістарычныя запіскі» Ф. Еўлашоўскага (гл. **«Гістарычныя запіскі» Ф. М. Еўлашоўскага**), «Дыярыуш» А. Філіповіча (гл. **«Дыярыуш» А. Філіповіча**)], перакладнымі воінскімі і рыцарскімі раманамі і аповесцямі [«Александрыя» (гл. **«Александрыя»**), «Аповесць пра Трою» (гл. **«Троя»**), «Аповесць пра Трышчана» (гл. **«Аповесць пра Трышчана»**), «Аповесць пра Баву» (гл. **«Аповесць пра Баву»**); «Гісторыя пра Атылу», «Аповесць пра Скандэрбега»], вялікімі перакладнымі хронікамі і хранографамі («Хроніка ўсяго свету» М. Бельскага, «Хроніка» М. Стрыйкоўскага). Пералічаныя арыгінальныя і перакладныя творы адлюстроўваюць вышэйшую ступень развіцця старабеларускай літаратурнай мовы, багацце і разнастайнасць яе выяўленчых сродкаў. Мова іх амаль не мае царкоўнаславянскага ўплыву, але тут ужо адчуваецца прыкметны польскі лексічны струмень.

На Беларусі найбольш паслядоўна традыцыі пісьменства старажытнага перыяду захоўваліся ў сферы рэлігійнай літаратуры. Кананічныя рэлігійныя творы псалтыр, евангелле і апостал тут па-ранейшаму перапісваліся і пазней друкаваліся на царкоўнаславянскай мове аж да канца 18 ст. Аднак на Беларусі ў выніку цэлага шэрага ідэалагічных і культурных абставін сфера выкарыстання царкоўнаславянскай мовы пачала звужацца за кошт пранікнення беларускай мовы ў канфесіянальную літаратуру. На першых парах праявілася імкненне зблізіць з беларускай народнай мовай рэлігійныя некананічныя агіягра-







**«Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (тытулы). Т. 1—2. 1967—68.**

фічныя і апакрыфічныя творы, стваральнікі ці перакладчыкі якіх наогул вельмі свабодна абыходзіліся з некананічнымі тэкстамі. Тыповы ўзор гэтага роду пісьменства — вядомая Чэцця 1489 г. (гл. **Чэцця 1489 г.**), дзе змешчаны пераважна словы і павучанні Іаана Златавуста і Іаана Дамаскіна, а таксама жыціі многіх святых пакутнікаў. У некаторых частках гэтага помніка беларускія моўныя рысы амаль нароўні перамешаны з царкоўнаславянскімі. У гэты ж час пачалі з'яўляцца і непасрэдныя пераклады на беларускую мову паасобных рэлігійных твораў. Спачатку гэты працэс распаўсюдзіўся на некананічныя рэлігійныя творы — апокрыфы і жыціі святых. Дзве такія аповесці — «Пакуты Хрыста» (гл. **«Пакуты Хрыста»**) і «Аповесць пра трох каралёў-вешчуноў» — дайшлі да нас у рукапісным зборніку канца 15 ст., дзе змешчана і «Жыціе Аляксея, чалавека божага» (гл. **«Жыціе Аляксея, чалавека божага»**). Такія творы перакладаліся ў каталіцкім асяроддзі з лацінскай мовы, пры выкарыстанні чэшскіх і польскіх рэдакцый. Таму ў творах гэтай групы царкоўнаславянскі ўплыў практычна адсутнічае, затое прыкметныя лексічныя і марфалагічныя паланізмы. У гэты ж час пачалі з'яўляцца і непасрэдныя пераклады на беларускую мову паасобных біблейскіх кніг. З іх самым раннім лічыцца пераклад канца 15 ст. «Песні песням». У гэтым жа кірунку праходзіла і дзейнасць беларускага першадрукара, асветніка і гуманіста Францыска Скарыны (гл. **Скарына Францыск**), які на працягу 1517—19 гг. зрабіў пераклад большай часткі кніг Старога запавету. Захаваўшы царкоўнаславянскую аснову, Скарына насыціў свой пераклад беларускімі рысамі ў такой меры, што ў цэлым мова яго перакладу заняла прамежкавае становішча паміж царкоўнаславянскай і беларускай літаратурнай мовамі. Адначасова былі зроблены пераклады некаторых біблейскіх кніг непасрэдна са старажытнаяўрэйскага арыгінала, што наогул было выключнай з'явай у тагачасным славянскім свеце. У гэтых перакладах царкоўнаславянская стыхія адлюстравана зусім нязначна. З'яўленню перакладаў біблейскіх кніг на беларускую мову садзейнічала некалькі фактараў, сярод якіх першаступеннае значэнне мела распаўсюджанне на Беларусі розных рэфармацыйных плыняў, прыхільнікі якіх патрабавалі весці набажэнствы і чытаць Свяшчэннае пісанне на родных мовах. Знамянальнай вяхой у гісторыі беларускай літаратурнай мовы быў пераклад у сярэдзіне 16 ст. Псалтыра — самай папулярнай кнігі ў прыхільнікаў хрысціянскага веравызнання. Гэты пераклад быў зроблены з польскага выдання, таму тут аказалася многа лексічных і граматычных паланізмаў.

Пераклад на беларускую мову канфесіянальнай літаратуры падрыхтаваў глебу для з'яўлення і арыгінальных рэлігійных твораў на беларускай мове, што трэба разглядаць як паказчык павышэння яе прэстыжу і грамадска-культурнай ролі. З'яўленне на беларускай мове арыгінальных твораў рэлігійнага прызначэння звязана з імем буйнога асветніка і ідэолага гуманізму і рэфармацыі на Беларусі і Літве Сымона Буднага, дзейнасць якога прыпадае на перыяд інтэнсіўнага пашырэння ў краіне рэфармацыйнага руху. У 1562 г. Будны пры падтрымцы сваіх аднадумцаў выдаў у Нясвіжы на беларускай мове дзве кнігі — «Катэхізіс» (гл. **«Катэхізіс» С. Буднага**) і «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам». Значным крокам у кірунку пашырэння ролі беларускай мовы ў рэлігійнай сферы было выданне на беларускай мове каля 1580 г. Васілём Цяпінскім «Евангелля» (гл. **«Евангелле» В. Цяпінскага**). Гэта выданне вылучаецца тым, што тут беларускі тэкст змешчаны паралельна з царкоўнаславянскім. Дзякуючы гэтаму даследчыкі маюць магчымасць выявіць найважнейшыя адрозненні ў тагачаснай беларускай літаратурнай мове і царкоўнаславянскай.

У канцы 16 — першай палове 17 ст. з'явілася вялікая колькасць друкаваных рэлігійных кніг на беларускай мове. Першае месца сярод іх займаюць павучальныя і прапаведніцкія (гамілетычныя) творы: «Катэхізіс» (Вільня, 1585), «Казанне Кірылы» С. Зізанія (Вільня, 1596), «Два казанні» Л. Карповіча (Еўе, 1615), «Евангелле вучыцельнае» (Еўе, 1616), «Кінавіён» (Еўе, 1618), «Навука аб сямі тайнах» (Вільня, 1620), «Казанне на пахаванне Лявонція Карповіча» М. Сматрыцкага (Вільня, 1620), «Паўустаў» (Вільня, 1622), «Духоўныя гутаркі Макарыя» (Вільня, 1627), «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа» (Куцеін, 1637), «Дзідаскалія» (Куцейна, 1653). Сярод друкаваных кніг гэтага часу выдзяляецца цыкл палемічных твораў, якія адлюстроўваюць барацьбу праваслаўя з каталіцызмам. Усе яны выдаваліся віленскімі друкарамі: «Унія» (1595), «Апісанне і абарона сабора рускага берасцейскага» (1597), «Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай» (1597), «Апакрысіс» (1598), «Абарона сабора фларэнційскага» (1604), «Гармонія» (1608). Сярод пералічаных кніг ёсць як арыгінальныя, так і перакладныя творы. Кожны з іх мае сваю каштоўнасць для гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Першаступеннае значэнне, безумоўна, маюць арыгінальныя творы. Іх аўтары, незалежныя ад іншамоўных тэкстаў, найбольш поўна адлюстравалі на пісьме тыя моўныя рысы, якія ўспрымаліся імі як сродкі літаратурнай мовы. З пералічаных твораў асобае месца займаюць «Казанне Кірылы» С. Зізанія, дзе беларускі тэкст змешчаны паралельна з польскім, а таксама «Апакрысіс» і «Казанне на пахаванне Лявонція Карповіча» М. Сматрыцкага, якія выйшлі асобнымі выданнямі і на польскай мове. Усё гэта дае рэдкую магчымасць атрымаць нагляднае ўяўленне пра важнейшыя адрозненні тагачаснай беларускай літаратурна-пісьмовай мовы ад польскай. Трэба адзначыць, што ў гэты час некаторыя рэлігійныя творы выдаваліся на царкоўнаславянскай

мове, але забяспечваліся прадмовамі на беларускай.

Побач з друкаванымі рэлігійнымі творамі ў 17 ст. была створана вялікая колькасць рукапісных рэлігійных помнікаў на беларускай мове. Да гэтага часу адносяцца спробы новых перакладаў рэлігійных біблейскіх кніг, у прыватнасці Евангелля. На гэта ўказвае наяўнасць у многіх тагачасных рукапісных і друкаваных творах шматлікіх цытат і нават цэлых урыўкаў з Евангелля на беларускай мове, прычым такія цытаты і ўрыўкі моваю не супадаюць як паміж сабой, так і з перакладам Евангелля Цяпінскім. У пачатку 17 ст. быў зроблены таксама новы пераклад Псалтыра. Аднак першае месца па колькасці дайшоўшых да нас рукапісных помнікаў рэлігійнага прызначэння займае агіяграфічная літаратура — шматлікія зборнікі жыцій святых. Рукапісныя помнікі ў параўнанні з друкаванымі кнігамі больш поўна адлюстроўваюць жывую народную мову. Аднак аснову мовы як рукапісных, так і друкаваных помнікаў складаюць агульнабеларускія рысы, а дыялектныя асаблівасці ў іх адлюстроўваюцца нязначна.

На фоне гэтых звестак парадаксальным даводзіцца лічыць факт, што ў старажытны перыяд на беларускай мове не было створана ні падручнікаў, ні слоўнікаў. Пісьмовыя помнікі, на жаль, практычна не даюць ніякіх звестак пра тое, як праводзілася вывучэнне беларускай мовы ў той час. Можна не сумнявацца, што пры тагачасных манастырах і цэрквах, а таксама пры дварах буйных феадалаў існавалі школы, дзе вывучаліся «сем свабодных навук» — граматыка, рыторыка, дыялектыка, арыфметыка, геаметрыя, астраномія і музыка. Аднак асноўным відам авалодвання пісьмовай мовай было практычнае навучанне прыватнымі асобамі па ўзорах пісьмовых тэкстаў. Толькі з канца 16 ст. беларуская мова стала абавязковым прадметам навучання ў праваслаўных брацкіх школах, дзе вывучаліся таксама польская, лацінская і грэчаская мовы.

Такім чынам, у 16 і першай палове 17 ст. старабеларуская літаратурная мова дасягнула вышэйшага ўзроўню свайго развіцця, атрымаўшы прымяненне ў найважнейшых галінах грамадскага і культурнага жыцця беларускага насельніцтва. Разам з тым якраз у гэты перыяд у абставінах новых палітычных і культурных умоў жыцця беларускага народа сфера выкарыстання беларускай мовы пачала звужацца, што пазней прывяло да яе заняпаду. У складаных палітычных абставінах сярэдзіны 16 ст. беларуска-літоўская шляхта зрабілася буйной палітычнай сілай, якая, каб забяспечыць сваё палітычнае і эканамічнае становішча, пачала імкнуцца да ўстанаўлення ў Вялікім княстве Літоўскім важнейшых дзяржаўных інстытутаў на польскі ўзор. У другой палове 16 ст. польская культура, у тым ліку і польская мова, пачала інтэнсіўна распаўсюджвацца ў вышэйшых колах беларускага грамадства. Каб абараніць беларускую мову, у Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 г. быў уключаны спецыяльны пункт аб ужыванні ў справаводстве толькі беларускай мовы: «А писар земски по руску маеть литэрами и словы рускими вси листы и позвы писати, а не інъшым языком и словы» (раздзел 4, артыкул 1). Гэты пункт пазней быў захаваны і ў друкаваным Статуце 1588 г. і нават у перакладзе Статута на польскую мову ў 1614 г. Але ўжо гэты Статут спецыяльным артыкулам дазваляў каталіцкай царкве ўжываць польскую мову як афіцыйную. Першымі прыкметамі пранікнення польскай мовы ў справаводства стаў звычай беларускіх арыстакратаў пісаць свае прозвішчы польскімі літарамі пад дакументамі на беларускай мове. Далейшым крокам гэтага працэсу было пранікненне польскай мовы ў тэкст саміх дакументаў. Пункт Статута аб выкарыстанні ў справаводстве беларускай мовы фармальна захоўваў сваю сілу на працягу ўсяго 17 ст. Захаванне літары закона дасягалася тым, што ў пачатку і ў канцы юрыдычных дакументаў пісаліся традыцыйныя формулы на афіцыйнай беларускай мове, тады як асноўны тэкст пісаўся па-польску. У сярэдзіне 17 ст. некаторы час дакументы пісаліся на беларускай мове, але з кароткім выкладам зместу па-польску. Складаная моўная сітуацыя, якая існавала на Беларусі ў 17 ст., спрасцілася ў канцы гэтага стагоддзя, калі ўсеагульнай канфедэрацыяй саслоўяў у 1696 г. была прынята пастанова пісаць дзелавыя паперы дзяржаўнага значэння па-польску, а не па-беларуску. Гэта пастанова юрыдычна замацавала тое становішча, якое на практыцы склалася на некалькі дзесяцігоддзяў раней. Усё наступнае стагоддзе ў афіцыйным канцылярска-юрыдычным пісьменстве на Беларусі панавалі польская і лацінская мовы.

На беларускай мове ў гэты час, пераважна ва ўсходняй частцы краю, дзе паланізацыя праходзіла павольней, па традыцыі працягвалі пісаць дакументы мясцовага значэння: запаветы, дакументы пра падзел маёмасці, распіскі, прыватныя лісты і г. д.

Заняпад беларускай мовы ў афіцыйным справаводстве храналагічна супаў са звужэннем яе ролі ў іншых галінах культурнага жыцця. Ужо ў сярэдзіне 17 ст. скарацілася колькасць рукапіснай свецкай і рэлігійнай літаратуры на беларускай мове, фактычна перасталі друкаваць беларускія кнігі і тагачасныя друкарні, якія друкавалі кніжную прадукцыю на царкоўнаславянскай мове. Цяпер вядома толькі настаўленне аб правядзенні рэлігійных рытуалаў пад назвай «Збор выпадкаў кароткі», выдадзенае Супрасльскай уніяцкай друкарняй у 1722 г. Другая палова 17 і ўсё 18 ст. ў гісторыі Беларусі вядомы як эпоха панавання польска-лацінскай кніжнасці. Адукацыя ў гэты час знаходзілася ў руках шматлікіх рымска-каталіцкіх манаскіх ордэнаў езуітаў, дамініканцаў, кармелітаў, францысканцаў, бернардзінцаў і піяраў, якія мелі свае вучылішчы амаль ва ўсіх гарадах і буйных мястэчках Беларусі. Навучанне тут вялося на польскай і лацінскай мовах. Беларуская мова ў гэты час вывучалася толькі ва уніяцкіх базыльянскіх школах. Уніяцкая царква выкарыстоўвала вусную беларускую мову ў неафіцыйных частках набажэнства. Жывая беларуская мова тады захоўвалася ў вуснах сялян, дробнай шляхты і гарадскога рамеснага насельніцтва. На беларускай мове працягвалі ствараца фальклорныя творы — казкі, легенды, паданні, прыказкі і прымаўкі. У народзе бытавалі вершы і песні на царкоўна-рэлігійныя, маральна-этычныя тэмы, гістарычныя і патрыятычныя творы, што распаўсюджваліся вусным шляхам.

У 18 ст. беларуская мова атрымала пісьмовую фіксацыю галоўным чынам ў інтэрмедыях і інтэрлюдыях да драматычных твораў, што ставіліся ў тагачасных вучылішчах. З іх асаблівую цікавасць маюць дзве камедыі ў зборніку 1787 г. выкладчыкаў рыторыкі Забельскай дамініканскай калегіі К. Марашэўскага і М. Цярскага. Гэтыя камедыі можна разглядаць як спробы стварэння новай беларускай літаратурнай мовы: усёй сістэмай сваіх графіка-арфаграфічных і лексічных сродкаў яны збліжаюцца з творамі беларускай літаратуры першай паловы 19 ст.

Узнікненне новага беларускага пісьменства і складванне новай беларускай літаратурнай мовы, якое адбывалася на працягу 19 — пачатку 20 ст., звязана з нацыянальным адраджэннем беларускага народа, з уздымам нацыянальна-вызваленчага руху народаў царскай імперыі. Ва ўмовах жорсткага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску беларуская літаратура і літаратурная мова ўзнікалі як сродак духоўнага жыцця народа, яго барацьбы за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

У канцы 18 ст. ў выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Беларусь была канчаткова далучана да Расіі. З гэтага часу афіцыйнай мовай на Беларусі стала руская. Аднак да 1830-х гадоў па-ранейшаму шырока ўжывалася і польская мова, якая захоўвалася ў справаводстве і школьным выкладанні, на ёй гаварылі і пісалі польскія і мясцовыя памешчыкі і арыстакраты. Бе-

ларускай мовай у яе дыялектных разнавіднасцях карысталіся найперш сялянства, блізкія да яго паводле сацыяльнага становішча дробная шляхта і жыхары мястэчак, а таксама ніжэйшыя слаі насельніцтва буйных гарадоў. На народнай мове працягваў развівацца фальклор.

Адсутнасць свайго нацыянальнага дзяржаўна-палітычнага ўтварэння было галоўнай прычынай таго, што працэс складвання агульнай пісьмова-літаратурнай нацыянальнай мовы адбываўся больш за стагоддзе: ад пачатку 19 ст. аж да першых паслякастрычніцкіх дзесяцігоддзяў. Яшчэ даўжэй складваліся вусныя формы агульнанацыянальнай мовы. Негатыўную ролю ў гэтым працэсе мела і тое, што тагачасная філалагічная навука разглядала беларускую народна-дыялектную мову як дыялект рускай ці польскай моў, што ў прынцыпе адмаўляла права на яе літаратурную апрацоўку.

Паколькі ў значнай ступені традыцыі старабеларускага пісьменства аказаліся перарванымі, новая беларуская літаратурная мова (сучасная, як яе прынята называць) узнікала на народна-дыялектнай аснове.

Сярод найбольш ранніх помнікаў беларускага пісьменства 19 ст. найперш вылучаюцца ананімныя творы, з якімі і звязана ўзнікненне новай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы. Гэта творы, у якіх раскрываецца цяжкае, бяспраўнае становішча беларускага селяніна і яго імкненне знайсці лепшую долю: вершаванае апавяданне «Тэатр», гутаркі «Ой, вясніца-вясна!», «Праўда», «Вясна, голад, перапала», «Вось які цяпер люд стаў», «Гутарка Данілы са Сцяпанам», «Размова пана з мужыком» і інш., а таксама паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» (гл. **Парадыйна-сатырычныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»**).

Гэтыя творы пісаліся ў розны час і рознымі аўтарамі. Паколькі іх распаўсюджванне ішло праз фальклор, то з боку зместу і мовы ў іх назіраецца пэўнае вар'іраванне, звязанае з уплывам мясцовых дыялектаў. Калі ўлічыць, што большасць ананімных твораў не вызначаецца вялікімі памерамі і ў розных выданнях выдавалася па-рознаму (паводле правілаў тых ці іншых выдавецтваў), то вызначыць першапачатковы характар іх мовы не заўсёды проста. У цэлым яны напісаны жывой гутарковай мовай беларускага селяніна, з захаваннем шматлікіх рыс мясцовых гаворак.

Характэрныя рысы народнай гаворкі адлюстроўваюць і творы пісьменнікаў першай паловы 19 ст., якія пісалі на беларускай мове. Так, цесна звязана з сістэмай моўна-выяўленчых сродкаў фальклору, блізкай да мовы ананімных вершаваных твораў першай паловы 19 ст., мова адзінага верша сялянскага паэта Паўлюка Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы», напісанага каля 1828 г. Фанетычныя і граматычныя асаблівасці жывой народнай гаворкі даволі паслядоўна перадаюцца ў вершах вядомага паэта і вучонага першай паловы 19 ст. Яна Чачота (гл. **Чачот Ян**), які шмат увагі аддаваў вывучэнню фальклору і мовы беларусаў. Ужо ў першых сваіх творах 1819 г. (драматычная сцэнка да імянін па гуртку філаматаў, 2 віншаванні) паэт трапна перадае мову беларускіх сялян. Напрыклад: *Конік па полю дурэе, // Хоць копы возіць не дбае. // Салавей харашо пяе, // Самічку к себе склікае. // Буезь, як лісічка, здаровы, // Як конік, весёл пры трудзе; // Нех Тваё пісьмо, размовы // Як салаўя голас будзе.*

Яшчэ большай дасканаласцю вызначаюцца пазнейшыя вершы Яна Чачота, надрукаваныя ў зборніках народных песень «з-пад Нёмна і Дзвіны». Нягледзячы на правапісную неаднастайнасць, значную колькасць марфалагічных і фанетычных дыялектызмаў, вузкамясцовых слоў, паланізмаў і русізмаў (*рок, жадын, клетэк, для дзетэк, ісправнік, німа, співаць* і інш.), творы Яна Чачота пабуджалі да творчасці на беларускай мове, заваёўвалі ёй права на развіццё і грамадскае прызнанне.

Першымі творцамі новай беларускай літаратуры былі, як правіла, выхадцы з бяднейшай мясцовай шляхты, для якой беларуская мова была мовай штодзённага ўжытку. Спачуваючы запрыгоненаму селяніну, яны імкнуліся далучыць яго да асветы і характва прыгожага пісьменства. Важнейшым сродкам для дасягнення іх мэты была родная мова. Сярод пісьменнікаў першай паловы 19 ст., якія пісалі па-беларуску, былі Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі, А. Вярыга-Дарэўскі, В. Каратынскі, У. Сыракомля, А. Плуг і інш. Па-рознаму склаўся лёс гэтых людзей, розны быў іх уклад у беларускую літаратуру і літаратурную мову, але прынцыпы, якімі яны кіраваліся ў сваёй моўнай практыцы, былі агульныя. Галоўным арыенцірам служылі для іх найперш уласныя гаворкі. І чым бліжэй была гаворка таго ці іншага пісьменніка да моўнай стыхіі цэнтральнай Беларусі, тым больш патэнцыяльны і рэальны ўплыў мела яго творчасць на фарміраванне нацыянальнай літаратурнай мовы.

Найбольш буйной фігурай гэтага часу з'яўляецца В. Дунін-Марцінкевіч (гл. **Дунін-Марцінкевіч Вікенцій Іванавіч**), ад якога па сутнасці пачынаецца шлях новай беларускай літаратуры. Нягледзячы на ганенні з боку царскіх улад, матэрыяльныя страты ад выдання сваіх кніг, абвінавачванні ў правінцыялізме, В. Дунін-Марцінкевіч здзейсніў сапраўдны грамадзянскі подзвіг у імя беларускага народа і яго мовы. «Жывучы сярод народа, які гаворыць беларускай гаворкай,— пісаў у 1861 г. В. Дунін-Марцінкевіч,— прасякнуты спосабам яго думак, марачы аб долі гэтага, анямеўшага ў маленстве ад невуцтва, братняга народа, рашыў я для заахвочвання яго да асветы ў духу яго звычаяў, паданняў і разумовых здольнасцей пісаць на яго ўласнай гаворцы» (Gazeta Polska. 1861. Nr 111).

Калі ў беларускамоўнай творчасці пісьменнікаў першай паловы 19 ст. прысутнічаў яшчэ элемент стыхійнасці, то В. Дунін-Марцінкевіч свядома стаў апрацоўваць жывую мову беларускага народа, шукаць ў ёй адпаведныя сродкі і прыёмы літаратурнага выказвання. У пошуках патрэбнага слова ён звярнуўся ў першую чаргу да роднай гаворкі, адбіраючы з яе найбольш тыповае і характэрнае беларускай мове ўвогуле. Разам з тым ён уважліва ставіўся да лексікі і фразеалогіі іншых беларускіх гаворак, пра што яскрава сведчыць камедыя «Пінская шляхта». Дзякуючы таму, што пісьменнік быў родам з той часткі Беларусі, гаворкі якой сталі асновай фарміравання беларускай нацыянальнай мовы і замацавання яе ў літаратуры, у творах В. Дуніна-Марцінкевіча даволі паслядоўна адлюстраваліся найбольш тыповыя рысы беларускай мовы (недысімілятыўнае аканне, дзеканне і цеканне, розныя марфалагічныя формы і інш.).

Умелае выкарыстанне народнага слова, яркага эпітэта і маляўнічага параўнання, дасціпнай прыказкі і прымаўкі, размоўнай інтанацыі і інш. моўна-выяўленчых сродкаў дазволілі В. Дуніну-Марцінкевічу стварыць выразныя, запамінальныя вобразы і тым самым даказаць выяўленчыя магчымасці роднага слова. Як сцвярджае М. Багдановіч, «многа пішучы і многа друкуючы, ён (В. Дунін-Марцінкевіч) узбуджаў вакол сваіх твораў размовы і палеміку, напамінаў аб існаванні беларускай мовы і зародкаў беларускай літаратуры, наводзіў на пытанне аб магчымасці іх далейшага развіцця» (Б а г д а н о в і ч М. Зб. тв. Т. 2. Мн., 1968. С. 226). Дзякуючы В. Дуніну-Марцінкевічу ў беларускай мове пачалі выпрацоўвацца лексічныя, фанетычныя і граматычныя сродкі, якія не маглі не ўлічвацца пазнейшымі пісьменнікамі.

Пасля задушэння паўстання 1863 г. рэзка ўзмацніўся сацыяльны і нацыянальны прыгнёт беларускага народа. Царскім урадам была распрацавана цэлая сістэма мер, накіраваная на «абрусенне Паўночна-Заходняга краю» і «ўсталяванне рускага элемента» ў ім, падаўленне імкненняў беларускага народа развіваць нацыянальную культуру і літаратуру на роднай мове. Так, 30 верасня 1865 г. міністр унутраных спраў

Расіі Валуеў спецыяльным цыркулярам загадаў губернатарам: «1. Забараніць усім уладальнікам друкарняў, літаграфій і хромалітаграфій друкаваць у прадпрыемствах, якія належаць ім, якія-небудзь выданні на літоўскім і жмудскім дыялекце лаціна-польскімі літарамі. 2. Ужыць усе сродкі, якія будуць у руках губернатара, каб забараніць перавоз, продаж і распаўсюджванне такіх выданняў. 3. Паведаміць пра гэта распараджэнне ўсім уладальнікам друкарняў, літаграфій і хромалітаграфій, а ў выпадку парушэння гэтага цыркуляра канфіскаваць забароненыя выданні». І хоць з 28 сакавіка 1871 г., калі ў Літве і на Беларусі было адменена ваеннае становішча, цыркуляр страціў юрыдычную сілу, беларускае кнігадрукаванне фактычна было забаронена да першай рускай рэвалюцыі. Зноў, як гэта было ў пачатку 19 ст., на беларускай мове дазвалялася друкаваць толькі фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, а таксама гістарычныя дакументы і помнікі пісьменства.

У гэтых умовах адбываецца спад беларускага грамадска-культурнага руху, замаруджваецца літаратурнае жыццё. У афіцыйнай навуцы ўсталёўваецца думка аб непатрэбнасці развіцця нацыянальнай культуры і літаратуры на беларускай мове. Так, мовавед А. І. Сабалеўскі ў рэцэнзіі на працу Я. Ф. Карскага «Агляд гукаў і форм беларускай гаворкі» сцвярджаў, што «сучасныя беларускія гаворкі не маюць літаратурнай апрацоўкі, і, бясспрэчна, аб гэтым няма падстаў шкадаваць» [Журнал Министерства нар. просвещения. Ч. 251 (№ 5). М., 1887]. Яшчэ больш катэгарычна выказаўся пра лёс беларускай мовы вядомы этнограф і збіральнік беларускага фальклору П. А. Бяссонаў: «Беларуская вусная народная гаворка ніколі не будзе мовай літаратурнай, пісьмовай і кніжнай» (Предисловие // Белорусские песни. М., 1871. С. 1—2).

Аднак, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, у другой палове 19 ст. развіццё мастацкай і публіцыстычнай літаратуры на беларускай мове фактычна не спынялася. Фарміраванне беларускай мовы ў гэты час адбывалася пераважна ў жанрах мастацкай літаратуры і публіцыстыкі. Гэта не дазваляла развіваць усебакова яе слоўнік, у якім, акрамя слоў, звязаных з паняццямі штодзённага побыту, іншыя пласты лексікі былі развіты вельмі слаба. Сталыя, агульнапрынятыя правапісна-граматычныя нормы не выпрацоўваліся. Не далі жаданых вынікаў і спробы скласці граматыку і правапіс беларускай мовы, якія пачалі рабіцца з сярэдзіны 19 ст. (граматыкі П. Шпілеўскага 1846 г.




**М. Г. Булахаў. «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы». Т. 2 (вокладка). 1971.**

і К. Нядзвецкага 1854 г. засталіся ў рукапісах).

Пры друкаванні беларускіх выданняў выкарыстоўвалася пераважна лацінка (гл. **Лацінка**). Гэтай графікай былі надрукаваны творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, газета «Мужыцкая праўда», гутарка «Дзядзька Антон...» і інш. Для перадачы некаторых спецыфічных для беларускай мовы гукаў уводзіліся дадатковыя спецыяльныя абазначэнні: гук [ў] у выданнях В. Дуніна-Марцінкевіча перадаваўся літарай лацінскага алфавіта *u*, толькі набранай курсівам *(czaraunicy, maulau, salauja)*, гук [й] перадаваўся курсіўным *i* *(ihrajeć)* і г. д.

У канцы 19 ст. лацінку паступова пачынае выцясняць грамадзянскі шрыфт — тая графіка, якая выкарыстоўвалася ў рускім кнігадрукаванні. Пры друкаванні беларускіх тэкстаў рускай графікай адлюстроўваліся розныя этымалагічныя напісанні, не ўласцівыя жывой беларускай гаворцы. Так, даволі паслядоўна ўжывалася літара *ѣ (дзѣтки, сѣна)*, гук [р], як і зацвярдзелыя шыпячыя, часта перадаваўся мякка *(грешны, пригодны, нашей, яще)*. Непаслядоўна перадаваўся гук [ў]: то літарай *в (пришов)*, то літарай *у (прауда, даунѣйшій)*. Праз *е*, як гэта было прынята ў рускай графіцы, або праз *ё* перадаваўся гук [о] пасля мяккіх зычных *(енъ, залегъ, мёдъ, вёскі)*. З канчаткам *-ый (-ій)* пісаліся прыметнікі ў мужчынскім родзе *(дараженькій, вялікій)*. Нават у адным і тым выданні можна было сустрэць непаслядоўную перадачу той ці іншай рысы беларускай мовы. Усё гэта, вядома, аддаляла літаратурную мову ад жывога вымаўлення, перашкаджала выпрацоўцы адзіных графіка-правапісных норм.

Нягледзячы на шматлікія цяжкасці на шляху фарміравання беларускай літаратурнай мовы, на працягу другой паловы 19 ст. былі зроблены важныя крокі, якія давалі надзею на лепшае будучае роднай мовы. Сярод тых, хто спрыяў гэтай веры, быў заснавальнік крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры, паэт-дэмакрат Францішак Багушэвіч (гл. **Багушэвіч Францішак Казіміравіч**). Ён адзін з першых сярод беларускіх пісьменнікаў 19 ст. гаварыў пра беларускую мову як найважнейшы элемент нацыянальнай культуры. У прадмове да зборніка «Дудка беларуская» (Кракаў, 1891) Ф. Багушэвіч звяртаецца да беларускага народа: «Вам ахфяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмные, «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай».

Гарачым прыхільнікам роднай мовы, палымяным патрыётам беларускага слова выступае Ф. Багушэвіч і ў сваіх творах. Большасць вершаў паэта напісаны ў форме апавядання селяніна, што вымагала дакладнейшай перадачы самога складу народнай гаворкі. Моўна-выяўленчыя сродкі паэта ўзыходзяць амаль выключна да традыцыйнай народнай моватворчасці, фальклору. У параўнанні з мовай іншых беларускіх пісьменнікаў 19 ст. ў творах Ф. Багушэвіча менш адхіленняў ад агульнапашыраных з'яў, яны больш аднатыпныя. Дзякуючы добраму валоданню багацццямі народнай моватворчасці, умеламу апрабіраванню форм выражэння і вопыту літаратурна-моўных пошукаў сваіх папярэднікаў, Ф. Багушэвіч узбагаціў нашу літаратуру новымі моўна-выяўленчымі сродкамі і прыёмамі, надаў беларускай літаратурнай мове яшчэ большую гнуткасць і дасканаласць.

Важную ролю ў працэсе фарміравання беларускай літаратурнай мовы ў 19 ст. адыгрывала публіцыстыка — гутаркі, адозвы, пракламацыі. У канцы 18 — пачатку 19 ст. на беларускай мове з'яўляюцца творы мастацкай публіцыстыкі — так званыя гутаркі, якія пісаліся жывой народнай гаворкай у форме дыялогаў, апавяданняў у вершах і прозе. Гутаркі ствараліся на працягу ўсяго 19 ст., паступова пранікаючы ў друк. У перыяд падрыхтоўкі і правядзення паўстання 1863 г. з'явіліся нелегальныя пракламацыі і адозвы, сярод якіх асобае месца займае першая беларуская нелегальная газета «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага (гл. **Каліноўскі Кастусь**).

У публіцыстычных творах, як і ў творах іншых жанраў беларускай літаратуры таго часу, народная га-

ворка выкарыстоўваецца ва ўсёй сукупнасці яе характэрных рыс. Побач з шырока распаўсюджанай лексікай сустракаюцца асобныя дыялектызмы, разам з фанетычнымі і марфалагічнымі рысамі і сінтаксічнымі канструкцыямі, характэрнымі для народнай мовы ўвогуле, адзначаюцца рысы, уласцівыя асобным гаворкам.

Аднак спецыфіка жанру патрабавала і асобных сродкаў і прыёмаў літаратурнага выказвання. Беларускія аўтары шырока звярталіся як да вопыту сваіх папярэднікаў, так і да ўзораў рускай і польскай нелегальнай рэвалюцыйнай публіцыстыкі. Адбываецца паступовае замацаванне пашыраных у народзе слоў з тэрміналагічным значэннем, напаўняюцца канкрэтным сацыяльным і грамадска-палітычным зместам некаторыя назвы, звязаныя са штодзённым жыццём. Працэс тэрміналагізацыі закрануў найперш такія словы, як *бацькаўшчына, грамада, мужык, вольнасць, народ, панства* і інш. Агульнаўжывальная лексіка стала базай для ўтварэння такіх спецыфічных словазлучэнняў публіцыстычнага гучання, як *выказацца за вольнасць, здабыць свабоду, мужыцкая праўда* і г. д.

Напісаныя на матэрыяле канкрэтных жыццёвых фактаў, узведзеных да сапраўднага абагульнення, публіцыстычныя творы ўзбагацілі беларускую літаратурную мову новай яркай, вобразнай лексікай і фразеалогіяй, эмацыянальна афарбаванымі эпітэтамі і параўнаннямі, зваротамі і інтанацыямі, характэрнымі для размоўна-бытавых стыляў. Многія публіцыстычныя творы, асабліва газета «Мужыцкая праўда», гэта яскравы прыклад спалучэння газетна-публіцыстычнага і размоўна-апавядальнага стыляў.

Працэс складвання беларускай літаратурнай мовы быў арганічна звязаны з развіццём суседніх рускай і польскай моў. Элементы рускай мовы пранікалі ў беларускую не толькі таму, што яна з'яўлялася ў той час дзяржаўнай. Гэтаму спрыяла таксама наяўнасць элементаў рускай мовы ў асобных беларускіх гаворках пераходнага тыпу, якія знаходзіліся на мяжы паміж рускай і беларускай этнаграфічнымі тэрыторыямі. Уплыў рускай мовы на беларускую адбываўся праз пераклады твораў прагрэсіўнай рускай літаратуры, якія пашырыліся к канцу 19 ст. Адыграла сваю ролю і тое, што многія беларускія пісьменнікі ў той час свае творы пісалі і па-руску (напрыклад, Я. Лучына), а таксама друкаваліся ў рускіх выданнях.

Фарміраванне беларускай літаратурнай мовы па-ранейшаму было цесна звязана з польскай мовай, якую добра ведалі амаль усе беларускія пісьменнікі і на якой таксама пісалі свае творы. Уплыў польскай мовы на беларускую адбываўся і праз існаваўшы на Беларусі так званы шляхецкі жаргон з яго паланізмамі. У творах пісьменнікаў 19 ст. многа як асобных польскіх слоў і выразаў, так і калек з польскай мовы. Іх выкарыстанне, з аднаго боку, пашырала выяўленчыя магчымасці беларускай мовы, а з другога — прыўносіла элемент механічнага запазычання.

У пачатку 20 ст. Расія ўступіла ў стадыю імперыялізму, спадарожнікам якога сталі яшчэ больш бесчалавечная эксплуатацыя, палітычнае бяспраўе і нацыянальны прыгнёт народаў. Усё гэта выклікала рэвалюцыйную сітуацыю, вынікам якой сталі падзеі 1905—07 гг.

Своеасаблівым цэнтрам беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў гэты час была Беларуская сацыялістычная грамада, утвораная ў 1902 г. на базе культурна-асветных гурткоў моладзі Вільні, Мінска, Гродна. БСГ адыграла выключную ролю ў выданні і распаўсюджанні беларускамоўных кніг і брашур, стварэнні легальнай беларускай прэсы, вакол якой групаваліся лепшыя сілы творчай інтэлігенцыі.

Нацыянальна-вызваленчы рух на ўскраінах імперыі, а таксама нарастанне рэвалюцыйных падзей прымусілі царскі ўрад пайсці на некаторыя ўступкі ў нацыянальным пытанні. 24 лістапада 1905 г. ўступіў у дзеянне т. зв. закон аб свабодзе друку, які дазваляў друкаваць творы беларускай літаратуры і пераклады на беларускую мову з іншых моў. Аднак беларускую мову па-ранейшаму забаранялася выкарыстоўваць у сферы грамадска-культурнага і палітычнага жыцця, не мела яна доступу і ў школы.

І ўсё ж, нягледзячы на перашкоды царскага ўрада, нацыянальна-вызваленчы рух на Беларусі пашыраўся, ажыўлялася літаратурнае жыццё, разгортвалася кнігавыдавецкая справа.

Ужо ў 1906 г. ў Пецярбургу было заснавана беларускае выдавецкае таварыства («суполка») «Загляне сонца і ў наша аконца», якое праіснавала да першай сусветнай вайны. У выдавецтве выйшлі зборнік «Жалейка» Я. Купалы, паэма «Гапон» В. Дуніна-Марцінкевіча, зборнікі «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» Ф. Багушэвіча, пераклады твораў А. Чэхава, М. Горкага, Э. Ажэшкі і інш. Выдавецтва пачало выпускаць першыя падручнікі на роднай мове — т. зв. лемантары, або чытанкі: «Беларускі лемантар або Першая навука чытання» К. Каганца (1906), «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі (1906), «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Я. Коласа (1909).

У 1907 г. ў Вільні пачынае работу выдавецтва «Наша ніва», пазней узнікаюць выдавецкія суполкі ў Мінску і інш. гарадах: «Мінчук», «Наша хата», «Палачанін», «Беларускае выдавецкае таварыства» і інш. Беларускія творы яшчэ шырэй сталі друкавацца ў рускіх і польскіх друкарнях, у рускай і польскай перыёдыцы.

З 1906 г. пачынаецца гісторыя беларускай легальнай прэсы, калі ў Вільні выходзіць «Наша доля» — першая беларуская газета «для віясковаго і местоваго люду» (пасля выхаду 6-га нумара яе забаранілі). З 23.11.1906 стала выходзіць газета «Наша ніва», якая амаль цэлае дзесяцігоддзе (да 20.8.1915 г.) гуртавала вакол сябе беларускіх пісьменнікаў, вяла культурна-асветную работу сярод тагачаснага беларускага грамадства (гл. **«Наша ніва»**). Акрамя гэтых, напярэдадні і ў час першай сусветнай вайны выдаваліся газеты «Bielarus» (1913—15), «Гоман» (1916—18), «Дзянніца» (1916), «Świetač» (1916).

На беларускай мове выдавалі таксама сельскагаспадарчы часопіс «Саха» (1912—31), літаратурна-навуковы штомесячнік для беларускай моладзі «Лучынка» (1914), студэнцкі часопіс «Раніца» (1914). З пачатку 20 ст. пашыраецца і выданне рэвалюцыйных пракламацый і адозваў. У выглядзе асобных лістовак, напрыклад, выйшлі творы Цёткі «Мора» і «Хрэст на свабоду».

Увогуле колькасць выданняў на беларускай мове пасля падзей першай рускай рэвалюцыі 1905 г. рэзка ўзрасла. Паводле падлікаў вучоных, у пачатку 20 ст. (да Кастрычніцкай рэвалюцыі) выйшла 245 выданняў, у той час як за ўсё 19 ст. толькі 75.

У пачатку 20 ст. ў беларускім друку выкарыстоўваліся 2 графічныя сістэмы: лацінка ў яе польскім (пасля і чэшскім) варыянце і кірыліца — так званая гражданка (рускі шрыфт). Першапачаткова некаторыя выданні друкаваліся паралельна двума шрыфтамі — кірыліцай і лацінкай («Наша ніва» толькі з сярэдзіны 1912 г. перайшла на адзіную графіку — гражданку). Гражданка паступова выцясняла лацінку і станавілася тыповай беларускай графікай.

Замацоўваліся і пэўныя адметныя рысы беларускага алфавіта: літары *і, шч* замест *и, щ*, літара *ў*, абавязковае напісанне літары *ё*, паслядоўная замена літары *ѣ* літарай *е* *(лета, гдзе)*, замена т. зв. фіты і іжыцы літарамі *і (іпастась)* або *в, ў* *(евангелле, Яўхім)*.

Адбываецца далейшая уніфікацыя беларускага правапісу. Нягледзячы на 2 графічныя сістэмы, якімі друкаваліся беларускія выданні, выразна выяўляецца імкненне выдаўцоў перадаваць характэрныя асаблівасці беларускай мовы: аканне, яканне, пераход *е* ў *о* з папярэдняй мяккасцю ў пэўных выпадках, дзеканне, цеканне, зацвярдзенне шыпячых і *р*,

асіміляцыю зычных па мяккасці і інш.

Паступова ў практыцы беларускага кнігадрукавання замацоўваўся фанетычны прынцып для перадачы галосных гукаў і марфалагічны — для напісання зычных. Праўда, не заўсёды важнейшыя рысы беларускай фанетыкі перадаюцца паслядоўна. Калі ўлічыць розныя месцы выданняў, густы выдаўцоў, уплыў рускамоўных выданняў, то стане зразумелым, чаму ў адных выпадках *д, т* перад галоснымі пярэдняга рада перадаюцца цвёрдымі *(дэпутата, пратэст)*, а ў другіх — як мяккія *(партія)* і інш.

І ўсё ж выданні пачатку 20 ст. ў параўнанні з выданнямі 19 ст. лепш аформлены з граматыка-правапіснага боку. Нягледзячы на пэўны разнабой ва ўжыванні асобных форм слоў, непаслядоўнасць у перадачы тых ці іншых з'яў беларускай мовы, увогуле можна ўжо гаварыць пра існаванне своеасаблівых правілаў правапісу і граматыкі беларускай мовы, якія склаліся стыхійна і выпрацаваліся беларускім кнігадрукаваннем у пачатку 20 ст.

Актывізацыя літаратурнага жыцця ў пачатку 20 ст. садзейнічала далейшаму развіццю і ўдасканаленню сродкаў і прыёмаў літаратурнага выражэння, абумовіла якасна новы ўзровень літаратурнай мовы.

Асабліва прыкметна ў пачатку 20 ст. папаўняецца слоўнік і фразеалогія. Умела выкарыстоўваючы лексіка-фразеалагічныя багацці народнай гаворкі, пісьменнікі і паэты ўзбагачалі сродкі літаратурнага выражэння новымі словамі і зваротамі, сярод якіх значнае месца займаюць шырокаўжывальныя тэрміны для абазначэння паняццяў і з'яў сялянскага жыцця. Побач з гэтым асвойваліся словы і звароты са сфер гарадской культуры, розныя тэрміны антычнай і славянскай міфалогіі і інш. Так, М. Багдановіч у сваіх творах шырока выкарыстоўваў лексіку з класічнай літаратуры, культуры і гістарычнага мінулага розных народаў, ужываў тэрміны, звязаныя з літаратуразнаўствам, філасофіяй, эстэтыкай і інш.

Пашырэнне легальнай беларускай прэсы вымагала распрацоўкі грамадска-палітычнай тэрміналогіі. Дзякуючы газетам, у актыўны ўжытак увайшлі такія тэрміны, як *агітацыя, чырвоны штандарт, забастоўка, дэпутат, сацыяліст, міністэрства, правіцельство, прэдвыбарная работа, правадыр, рахунак, тэрор, праэкт, прашэньне* і інш.

Навукова-папулярныя брашуры, разлічаныя на масавага чытача, а таксама газеты садзейнічалі з'яўленню асобных навукова-тэхнічных тэрмінаў. У пачатку 20 ст. сталі ўжывацца такія лінгвістычныя тэрміны, як *зык* (гук), *зык галосны, зык сагалосны, склад, кропка, клічнік, пытаннік, літара* і г. д. У розных навукова-папулярных творах на сельскагаспадарчыя або прыродазнаўчыя тэмы сустракаюцца тэрміны, узятыя з народнай гаворкі, запазычаныя з суседніх моў ці створаныя: *бульба, віка, канюшына, ральля, паветрэ, дрот, ізолятор, іскра, праваднік, пай* і інш.




**Л. М. Шакун. «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (вокладка). 1984.**

У дзейнасці пісьменнікаў — прадстаўнікоў розных дыялектаў — усё выразней выяўляліся і замацоўваліся агульнапашыраныя моўныя рысы. Адбывалася паступовае ўзбагачэнне і ўдасканаленне саміх граматычных сродкаў. Пашыраліся словаўтваральныя магчымасці беларускай літаратурнай мовы, новымі формамі папаўняліся некаторыя граматычныя катэгорыі (нескланяльнымі назоўнікамі, дзееприметнікамі незалежнага стану), выпрацоўваліся больш разнастайныя структурныя тыпы складаных і простых сказаў, ускладняліся граматычныя сувязі паміж словамі ў словазлучэннях і спосабы злучэння складаных сінтаксічных канструкцый і інш.

Нягледзячы на абмежаванае функцыяніраванне, адсутнасць адзінага і ўстойлівага правапісу, графікі, агульнаабавязковых граматычных норм, па ступені ўнутранай дасканаласці беларуская літаратурная мова к канцу нашаніўскага перыяду была ў стане аформіць думкі з многіх галін жыцця народа.

Новым этапам у развіцці беларускай літаратурнай мовы стала рэвалюцыя 1917 г. Нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча, недахоп кадраў інтэлігенцыі ў паслярэвалюцыйны час, рэспубліка ўсё больш актыўна ўключалася ў культурнае будаўніцтва. Другая сесія ЦВК БССР 15 ліпеня 1924 г. прыняла пастанову «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі», паклаўшы пачатак планаваму ажыццяўленню беларусізацыі (гл. **Беларусізацыя**). Праграма беларусізацыі ўключала ў сябе арганізацыю навучальных устаноў на роднай мове, развіццё нацыянальнай літаратуры, выданне беларускіх кніг, навукова-даследчую працу па ўсебаковым вывучэнні Беларусі, перавод партыйнага, дзяржаўнага, прафсаюзнага, кааператыўнага апарату і часцей Чырвонай Арміі на тэрыторыі рэспублікі на беларускую мову і інш. Паводле Канстытуцыі БССР 1927 г., беларуская мова аб'яўлялася «пераважнай для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі».

Набыццё беларускай літаратурнай мовай шырокіх грамадскіх функцый патрабавала неадкладнай ліквідацыі разнабою ў вымаўленні і ўжыванні форм, вымагала адзіных, агульнапрынятых напісанняў. Для замацавання граматыка-правапісных норм неабходна было скласці нарматыўную граматыку беларускай мовы. Спробы, якія рабіліся ў гэтым кірунку да рэвалюцыі, як вядома, жаданых вынікаў не далі.

Асновай для выпрацоўкі літаратурных норм сталі сярэднебеларускія гаворкі (пераважна цэнтральных раёнаў Міншчыны і часткова ўсходніх раёнаў Гродзеншчыны), якія, займаючы цэнтральнае становішча сярод беларускіх дыялектаў, найбольш ярка ўвасобілі характэрныя адметнасці беларускай мовы. Важным, а магчыма, і рашаючым фактарам у выпрацоўцы норм беларускай літаратурнай мовы было тое, што буйныя беларускія пісьменнікі канца 19 — пачатку 20 ст. (Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, Цётка, Ц. Гартны, як і В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч) былі родам з цэнтральнай Беларусі.

Яшчэ ў дакастрычніцкі перыяд у беларускай літаратурнай мове пад уплывам сярэднебеларускіх гаворак замацаваліся такія спецыфічныя рысы, як поўнае недысімілятыўнае аканне, зацвярдзенне *р*, шыпячых і этымалагічнага *ц*, губных зычных перад *j* і на канцы слова, чаргаванне складоў *ро — ры, ло — лы*, фрыкатыўны (невыбухны) характар гука [г] і інш. У працэсе выпрацоўкі літаратурных норм у савецкі час адбываецца адбор найбольш тыповых рыс і з іншых дыялектаў. Напрыклад, на першых этапах станаўлення нацыянальнай літаратурнай мовы значную ролю адыгрывалі паўднёва-заходнія гаворкі, пад уплывам якіх у якасці літаратурнай нормы замацаваліся такія дзеяслоўныя формы, як *нясе, косіць*, многія формы іменнага скланення і інш. Пазней узрасла роля паўночна-ўсходніх гаворак, якія маюць шмат агульных

рыс з рускай мовай і яе гаворкамі.

Пачалася работа па выпрацоўцы і замацаванні стабільных правілаў граматыкі і арфаграфіі. У 1918 г. выходзяць адразу пяць граматык беларускай мовы, сярод якіх найбольш аўтарытэтнай стала «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча (гл. **«Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча**). Пабудаваная на фактычным матэрыяле жывой народнай гаворкі, беларускіх дарэвалюцыйных выданняў і навуковых прац па роднай мове, граматыка Б. Тарашкевіча даволі паслядоўна вызначала граматычныя рысы беларускай мовы і дакладна сфармулявала яе правапісныя нормы. Яна стала найбольш аўтарытэтным і стабільным вучэбным дапаможнікам, на аснове якога ў далейшым ствараліся новыя падручнікі і даследаванні па беларускай мове.

Аднак і граматыка Тарашкевіча, і іншыя падручнікі, што ўзнікалі на яе аснове, не змаглі дакладна вызначыць усе характэрныя рысы беларускай мовы і паслядоўна сфармуляваць іх у адпаведных граматычных правілах, адразу і канчаткова замацаваць граматычныя і арфаграфічныя нормы.

У 20-я гг. разгарнулася шырокая дыскусія па пытаннях нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы. Для ўпарадкавання норм роднай мовы ў лістападзе 1926 г. была склікана Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі (гл. **Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі**), аднак яна не змагла выпрацаваць адзіных рэкамендацый.

Для апрацоўкі матэрыялаў канферэнцыі і канчатковай выпрацоўкі праекта правапісу была створана спецыяльная Правапісная камісія ў складзе С. Некрашэвіча, А. Баргановіча, Я. Лёсіка, В. Ластоўскага, П. Бузука, Я. Бялькевіча, Я. Купалы, У. Чаржынскага. У 1933 г. быў выдадзены «Праект спрашчэння беларускага правапісу», на аснове якога Саўнаркам БССР прыняў пастанову «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», якая ўпершыню ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы заканадаўча абвясціла агульнадзяржаўнымі, г. зн. абавязковымі для кнігадрукавання, радыёвяшчання, школьнага выкладання, справаводства і г. д. пэўныя нормы беларускага правапісу і граматыкі (гл. **Рэформа беларускага правапісу 1933 года**).

У 1957 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу», праект якой быў абмеркаваны грамадскасцю. Пастанова анулявала шматлікія выключэнні з правілаў напісання тых ці іншых слоў і словаформ, якія дапускаліся папярэдняй пастановай, удакладніла правапіс складаных слоў, падоўжаных зычных, раздзяляльных апострафа і мяккага знака і іншых з'яў. Звод правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, арфаграфічны слоўнік, граматыкі, розныя граматычныя даведнікі і лексікаграфічныя дапаможнікі, выдадзеныя з улікам гэтай пастановы, унеслі неабходную дакладнасць у правапіс слоў, урэгулявалі некаторыя ўзаемаадносіны паміж фанетычным і марфалагічным прынцыпамі беларускага правапісу. Усё гэта садзейнічала таксама выпрацоўцы адзіных арфаэпічных норм беларускай літаратурнай мовы, надавала ёй неабходную стройнасць і ўпарадкаванасць.

Новыя гістарычныя ўмовы, у якіх апынулася беларуская літаратурная мова, істотна закранулі яе слоўнік і фразеалогію. Далейшае развіццё навукі, тэхнікі і культуры, міжнародныя абмены і кантакты выклікалі паяўленне шматлікіх новых слоў і зваротаў самай разнастайнай семантыкі і стылістычнай афарбоўкі. Слоўнік беларускай мовы папаўняўся рознымі шляхамі: у выніку стварэння новых слоў і словазлучэнняў на ўласнай моўнай базе, шляхам запазычання, за кошт багацця народнай гаворкі.

Сярод слоў, што ўзніклі ў гэты час для абазначэння розных паняццяў новых грамадскіх адносін, навукі, тэхнікі, культуры і побыту нашых сучаснікаў, вялікае месца займаюць спецыяльныя тэрміны — той пласт лексікі, які быў вельмі слаба распрацаваны ў дакастрычніцкі перыяд. Беларуская грамадска-палітычная, юрыдычная, навукова-тэхнічная і іншая спецыяльная тэрміналогія выпрацоўвалася і замацоўвалася даволі складаным шляхам і на працягу доўгага часу.

Для выпрацоўкі беларускай тэрміналогіі ў 1921 г. была створана Навукова-тэрміналагічная камісія, перад якой была пастаўлена задача распрацаваць тэрміны ва ўсіх галінах навукі. На працягу 1922—30 гг. былі надрукаваны 24 выпускі «Беларускай навуковай тэрміналогіі» (гл. **«Беларуская навуковая тэрміналогія»**), прысвечаныя батаніцы, граматыцы і літаратуразнаўству, матэматыцы, геаграфіі, псіхалогіі і г. д.

Выхад тэрміналагічных зборнікаў, нягледзячы на іх недахопы, спрыяў далейшаму разгортванню лексікаграфічнай дзейнасці, даваў магчымасць на практыцы праверыць жыццядзейнасць тых ці іншых тэрмінаў.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адбыліся істотныя змены ў сістэме стыляў беларускай літаратурнай мовы. Калі да рэвалюцыі беларуская мова выконвала абмежаваныя культурна-грамадскія функцыі — выкарыстоўвалася пераважна ў мастацкай літаратуры, то пасля атрымання ёю права грамадзянства паўстала вострая неабходнасць у пашырэнні яе функцый на ўсе сферы дзяржаўнага і адміністрацыйнага справаводства, асветы, навукі, культуры і г. д. А значыць, трэба было развіваць новыя стылі — афіцыйна-дзелавы, навуковы, грамадска-публіцыстычны.

Асаблівага росквіту дасягнуў стыль мастацкай літаратуры. Яго моўна-выяўленчыя сродкі папаўняліся найперш за кошт далейшага асваення багацця жывой народнай гаворкі, фальклору. Літаратурныя творы 20-х гг. запоўнілі словы і выразы, у якіх адлюстроўвалася рамантычнае светаадчуванне і светаразуменне маладога пакалення: *новая раніца — празалаць зарніц, сонцатканыя словы, срэбрашумныя завеі* (А. Александровіч), *бурапеністая завіруха* (М. Зарэцкі), *буравейныя далі* (У. Хадыка), *сонцавей залаты* (М. Чарот), *сонцакрылыя маякі* (Т. Кляшторны) і г. д.

Адсутнасць цвёрдай стылістычнай нормы ў літаратурнай мове 1920—30-х гг. стварала для пісьменнікаў і паэтаў шырокія магчымасці ў адборы і выкарыстанні моўна-выяўленчых сродкаў. Аднак нявопытнасць літаратараў таго часу прыводзіла і да разнастайных хібаў у мове. Частка пісьменнікаў захаплялася т. зв. лірыкай слоў, паэтызацыяй празаічных сродкаў і прыёмаў. У такіх творах рытмічна расстаўленыя словы часта трацілі свае сэнсавыя і эмацыянальна-вобразныя функцыі, абцяжарвалі думку. Некаторыя ж пісьменнікі празмерна выкарыстоўвалі элементы жывой гаворкі, што прыводзіла да зніжэння стылю выказвання, да моўнага натуралізму. У такіх творах часта можна было сустрэць элементы прастамоўя і нават вульгарызмы.

Шмат спрэчак выклікала ўжыванне дыялектызмаў. З аднаго боку, яны засмечвалі мову мастацкіх твораў, перашкаджалі яе разумець (шмат дыялектызмаў ужывалі Ц. Гартны, М. Лынькоў, М. Гарэцкі). З другога, у літаратурную мову пранікалі найбольш тыповыя словы і звароты, формы і сінтаксічныя канструкцыі народнай лексікі. У літаратурнай мове адбываўся працэс своеасаблівага апрабіравання розных сродкаў, замацавання новых, найбольш адметных з'яў беларускай літаратурнай мовы.

Намаганнямі лепшых прадстаўнікоў беларускай літаратуры, навукі і культуры беларуская літаратурная мова ў канцы 1920-х — пачатку 30-х гадоў дасягнула высокага ўзроўню развіцця. Гэтыя поспехі былі б яшчэ большыя, калі б беларусізацыю не задушылі сталінскія рэпрэсіі 30-х гадоў. Уведзены ў краіне па задуме Сталіна і яго акружэння курс на задушэнне ўсіх дэмакратычных свабод, імкненне да цэнтралізацыі і уніфікацыі ўлады прывялі да звужэння функцый нацыянальных моў і пераходу на адзіную мову — рускую. У канцы 30-х гг. і ў пасляваенны час беларускія школы пераводзіліся на рускую мову выкладання, родная мова выцяснялася з большасці сфер грамадскага

і культурнага жыцця рэспублікі. Паступова склалася становішча вымушанага двухмоўя, дзе руская мова пачала замацоўвацца адміністрацыйнай і штодзённай практыкай у якасці адзінай «афіцыйнай» мовы ў Беларусі.

Асноўнымі сферамі выкарыстання роднай мовы заставаліся ў той ці іншай ступені адукацыя, мастацкая культура і гуманітарная навука. У 30-х — першай палове 50-х гадоў, хоць і запаволена, працягвалі складвацца нацыянальныя школы ў тэатральным і музычным мастацтвах, плённа працавалі ў літаратуры Я. Колас, М. Лужанін, П. Глебка, П. Броўка, К. Крапіва, М. Танк. У літаратуру прыйшлі такія вядомыя сёння ў краіне пісьменнікі, як Я. Брыль, І. Мележ, В. Быкаў, У. Караткевіч, Н. Гілевіч, В. Адамчык, І. Пташнікаў і інш. Мастацкая літаратура і публіцыстыка становяцца вядучым звяном у захаванні нацыянальнай культуры, роднай мовы. У гэты ж час актывізуецца навуковае даследаванне беларускай літаратурнай і дыялектнай мовы, фальклору, літаратуры, розных відаў мастацтва. З друку выходзяць шматлікія слоўнікі, вучэбныя дапаможнікі, манаграфіі, публікуюцца артыкулы па розных праблемах нацыянальнага мовазнаўства.

І ўсё ж дысгармонія ў функцыянізаванні беларускай мовы ў Беларусі не спыняецца. Асабліва моцна гэта праявілася ў 60 — пачатку 80-х гадоў. Нягледзячы на значныя навуковыя здабыткі ў вывучэнні нацыянальнай культуры (выхад 12-томнай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, шматтомных галіновых энцыклапедый, перакладных, тлумачальнага, этымалагічнага і гістарычнага слоўнікаў і інш.), жывая беларуская мова яшчэ больш страчвала раней заваяваныя пазіцыі. Адбывалася імклівае скарачэнне тыражоў беларускамоўных часопісаў, газет, твораў мастацкай літаратуры. Па колькасці выданняў на нацыянальнай мове Беларусь апынулася на перадапошнім месцы сярод рэспублік былога СССР, а ў разліку на душу насельніцтва — на апошнім. Калі яшчэ ў «сталінскай» Канстытуцыі БССР 1937 г. народу гарантавалася права на адукацыю «навучаннем у школе на роднай мове», то Канстытуцыя БССР 1978 г. гэта права абмяжавала толькі абстрактнай «магчымасцю навучання на роднай мове».

У выніку ў рэспубліцы склалася надзвычайная сітуацыя, якая магла прывесці да поўнай страты мовы. Аднак дэмакратызацыя жыцця ў краіне, атрыманне рэспублікай поўнага суверэнітэту абудзілі ў людзей цікавасць да гісторыі, культуры і мовы. Намаганнямі пісьменнікаў, дзеячаў навукі і народнай адукацыі вырашэнне пытання беларускай мовы стала адным з важнейшых кірункаў дзейнасці ўсіх культурна-асветных устаноў, творчых саюзаў і інш.

У Беларусі распрацавана рэспубліканская праграма «Родная мова», у 1989 г. створана Таварыства беларускай мовы [гл. **Таварыства беларускай мовы (ТБМ) імя Францішка Скарыны**]. Спынена практыка пераводу школ на рускую мову навучання, у гарадах пачалі адкрывацца дашкольныя дзіцячыя ўстановы і школы з беларускай мовай навучання, беларускамоўныя класы. Беларуская мова становіцца рабочай мовай вышэйшых навучальных устаноў, тэхнікумаў і вучылішчаў, на ёй пачынаюць працаваць міністэрствы і ведамствы. Шырокія меры па развіцці беларускай мовы прымаюцца па лініі выдавецтваў, радыё, тэлебачання, тэатраў.

26 студзеня 1990 г. 14-я сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла закон «Аб мовах у Беларускай ССР» і вызначыла парадак ужывання беларускай, рускай і іншых моў у рэспубліцы. Паводле гэтага закону беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай мовай на тэрыторыі Беларусі.

*Літ.*: Карский Е. Ф. Белорусы: Язык белорусского народа. Вып. 1—3. Мн., 1955—56; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984; Булахаў М. Г. Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў XIX — XX стст. ва ўзаемаадносінах з іншымі славянскімі мовамі. Мн., 1958; Жураўскі А. І., Крамко І. І. Характар знешніх узаемаадносін беларускай літаратурнай мовы з іншымі славянскімі мовамі ў пачатковы перыяд яе фарміравання. Мн., 1973; Вайтовіч Н. Т. Да пытання аб фарміраванні нацыянальнай літаратурнай беларускай мовы: Аб суадносінах літ. мовы і дыялектаў. Мн., 1958; Булыка А. М. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мн., 1970; Баханькоў А. Я. Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд: Сацыялінгв. нарыс. Мн., 1982; Мова беларускай пісьменнасці XIV — XVIII стст. Мн., 1988; Конан У. М. Святло для людзей: Родная мова і культура ў эпоху перабудовы. Мн., 1989; Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1—2. Мн., 1961—63.

*А. І. Жураўскі, М. Р. Прыгодзіч.*

## ГЛЕБКА ПЯТРО ФЕДАРАВІЧ



П. Ф. Глебка нарадзіўся 6 ліпеня 1905 г. ў в. Вялікая Уса Уздзенскага раёна. Акадэмік АН БССР (1957, член-карэспандэнт з 1950). У 1930 г. скончыў БДУ. Доўгі час быў на рэдактарскай рабоце. З 1945 г. працаваў у АН Беларусі: у Інстытуце літаратуры, мовы і мастацтва, у 1952—56 гг. загадчык сектара лексікаграфіі, у 1956—57 гг. дырэктар Інстытута мовазнаўства, у 1957—69 гг. дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, адначасова ў 1968—69 гг. акадэмік-сакратар Аддзялення грамадскіх навук. У 1957—58 гг. узначальваў Міжнародны камітэт славістаў. Вёў даследчую работу ў галіне беларускай лексікаграфіі, мастацтвазнаўства і фалькларыстыкі. Памёр 18 снежня 1969 г.

Мовазнаўчую дзейнасць П. Глебка пачынаў тады, калі час быў няпросты. У вядомай дыскусіі пра неабходнасць змен у беларускім правапісе, што пачалася ў 1929 г., ён прапагандаваў збліжэнне беларускіх і рускіх літаратурных норм (Аб правапісе // Глебка П. Ф. Пытанні гісторыі, філалогіі, мастацтва. Мн., 1975). Як тэарэтык П. Глебка ішоў непасрэдна ад практычнага валодання сучасным і старажытным моўным матэрыялам. «Пісьменнік... павінен ведаць як мага больш самых разнастайных адценняў слоў, што могуць выражаць адны і тыя ж альбо вельмі блізкія паняцці, як, напрыклад: смутак, сум, туга, жальба, маркота; альбо — будаўніцтва, будоўля, пабудова, будаванні і г. д.»,— вызначаў ён адносіны да мовы як да матэрыялу і першаэлемента мастацкага твора (Заклік. 1933. № 2. С. 84). Лінгвістычныя погляды П. Глебкі сфармуляваны ў шэрагу яго артыкулаў, прысвечаных барацьбе за культуру мовы («Праца над словам», 1933; «За глыбокую ідэйнасць і высокае майстэрства», 1949, і інш.). У артыкуле «Нататкі пра беларускую літаратурную мову» ён гаворыць пра ўклад Я. Коласа, К. Чорнага, К. Крапівы, М. Лынькова, П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі, М. Лужаніна, В. Віткі і інш. у развіццё і ўдасканаленне беларускай літаратурнай мовы, савецкага часу, крытыкуе заганнае словаўжыванне, клапоціцца пра неабходнасць выдання добрага акадэмічнага слоўніка беларускай мовы, пра неўнармаванасць правапісу роднай мовы і нераспрацаванасць яе арфаэпіі, падкрэслівае ролю пісьменніка ў фарміраванні літаратурнай мовы: «Тварцом мовы

з'яўляецца народ. Пісьменнік чэрпае моўныя скарбы з народных крыніц. Але ён выступае тут не ў ролі пасіўнага спажыўца, а ў ролі адборшчыка і шліфавальшчыка народных скарбаў. Пісьменнік як бы ўпаўнаважаны грамадствам быць у пэўным сэнсе заканадаўцам у галіне мовы» (ЛіМ. 1950. 1 крас.). Арыенцірам для пісьменнікаў і культурных дзеячаў П. Глебка лічыў мову твораў Я. Купалы, багатую на лексіку, сінаніміку, наватворы (Аб мове Янкі Купалы // ЛіМ. 1946. 10 жн.): «жыццё беларускай мовы было для Купалы сімвалам жыцця яго народа як нацыі», «ён быў вялікім наватарам і будаўніком мовы», «глыбокім знаўцам народнай мовы і выдатным тварцом літаратурнай». П. Глебка рана зразумеў, што мова пачаткоўцаў, у якой даволі поўна адлюстроўваюцца «новыя з'явы ў сённяшняй мове працоўных мас» (Аб мове пачынаючых пісьменнікаў // Пісьменнік і мова. Мн., 1934. С. 52—58), здольная папоўніць лексіку сталых пісьменнікаў. Увагу прафесійных мастакоў слова П. Глебка прыцягваў да вывучэння слоўнікаў беларускай мовы, якія ўжо існуюць, увагу лінгвістаў — да стварэння новых слоўнікаў (Праблемы навуковай работы над перакладным руска-беларускім слоўнікам // Г л е б к а П. Ф. Пытанні гісторыі, філалогіі, мастацтва. Мн., 1975). Знаходзячыся на кіраўнічых пасадах, вучоны падтрымліваў выданне дыялектных слоўнікаў, зборнікаў афарызмаў, пісаў прадмовы да прац мовазнаўцаў, рэдагаваў шматлікія лінгвістычныя працы, апаніраваў дысертацыі.

Мова мастацкіх твораў П. Глебкі выразная і дакладная, лаканічная, эмацыянальная і багатая на лексіку і фразеалогію.

У ранніх вершах і паэмах П. Глебкі адчуваецца ўплыў М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота, У. Дубоўкі, паэтыка некаторых яго радкоў пераклікаецца з іх творамі.

У вершы «Я хацеў бы» паэт марыў: *Я хацеў бы асыпаць прасторы // Беларускіх маўклівых палёў // Зернем чыстым, як гэтыя зоры // Самых лепшых і радасных слоў.* Выразная адцягнена-абстрактная вобразнасць мастацкай мовы П. Глебкі, асабліва ранніх яго твораў: *...Сэрца — імклівою хваляй // Срэбразвонных уцех залілося; Асеннія свісты // Адзінокай бязлістай асіны; У сузор'ях вясёлкавасініх // Мітульгой рассыпаецца радасць* («Радасць вёскі»); *Хоць нервы напяты аж надта — // Не катуе сэрца пякельнасць; Хоць сцежка цяжкая надзіва — // Кірунку да мэты не зменім* («Урачыстасць»). Паэт асабліва актыўна карыстаўся словам грамадска-палітычным: *Авацыяй вас // Мая крыўда не стрэне; Гарачы, як сонца, // Крылаты, як вецер, // Наш сцяг пурпуровы // Адзіны на свеце* («Наш сцяг»). Эмацыянальна-рамантычнае светаўспрыманне і светаадлюстраванне ўжо з ранняга перыяду абумовілі афарыстычнасць лірыкі П. Глебкі: *Мне свет увесь здаецца роднай // Беларуссю* («Зіма»); *Гадае той аб прышласці далёкай, // Хто верыць у сучаснае душой* («Нашто гадаць і марыць аб далёкім»); *Вясною шчасце пунсавее, // Зімою — радасць на вачах* («Дрыжаць у шэрані бярозы»); *Ці ж радасць прыходзіць без гора?* («Нашто захавала»).

Намаганнямі П. Глебкі беларуская літаратурная мова ўзбагацілася абстрактна-адцягненымі словамі *прыгожасць, трымціцца, шырыцца, ніціцца, цвецень* і *расцвітанне, поступ, прадонне, насцярожана, вусцішна, наквець, пуціны, усцешыць, звянчаць, сугучнасць, стройнасць, здань, працяг, насторч, няўзнак, дарэшты, вомірг, утома, покліч, пякельнасць, ураджайна* і многімі іншымі.

Тэматыка яго твораў, іх грамадзянскі пафас (як на сённяшняе разуменне — дзе шчыры, дзе штучны, у сугучнасці з часам) адлюстраваліся нават у метафарах, эпітэтах *(Узвеяла сонца свой сцяг. // Яго шаўкавістыя, дзіўныя строі // У ветрах вякоў шалясцяць* — «І зоры, і месяц») і іншых мастацкіх сродках, якімі багата карыстаўся ў сваіх творах П. Глебка, працягваючы і развіваючы лепшыя літаратурныя і фальклорныя традыцыі. Тут і сінонімы *(Я не скарыўся, бо ведаю-знаю* — «На моры»), паўторы *(Над морам, над лесам, над дзікаю стромай* — «І зоры, і месяц»), звароткі і прыдаткі *(Сэрца, думкі,— гэй, наперад!* — аднайменны верш; *Ты, вясна — маладая красуня...* — «Вясна»; *Дзень добры, родныя мясціны, // Дзень добры, верны горад-друг!* — «Беларусь»), тут і характэрныя для паэм П. Глебкі прамоўніцкія і патэтычныя інтанацыі *(Падымі мяне, мужнасць класа, // Над галовамі пайшых ніц...; Берагла нас нястомная пільнасць, // Дыктатуры навостраны меч* — «Мужнасць»; *Мінуліся, мае сябры, падзеі жорсткай явы...; Слава вам, байцы суровай бітвы!* — «У тыя дні»).

*Літ.:* Б а р с т о к М. М. Пятро Глебка: Паэтыч. творчасць. Мн., 1952; П е р к і н Н. С. Пятро Глебка. Мн., 1955; Пісьменнік і мова. Мн., 1962; Песняр мужнасці: Кніга пра Пятра Глебку. Мн., 1976.

*М. В. Абабурка.*

## ГЛІНКА СТАНІСЛАЎ

Польскі лінгвіст Станіслаў Глінка (Glinka) нарадзіўся 6 снежня 1914 г. ў в. Янкі Млодэ ваяводства Астралэнка (Польшча). У 1950 г. скончыў матэматычна-прыродазнаўчы факультэт Варшаўскага універсітэта. Доктар філалагічных навук (1957). У 1957—72 гг. супрацоўнік аддзела беларускай мовы Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук, а ў 1972—84 гг. загадчык гэтага аддзела.

Галоўныя кірункі навуковай дзейнасці С. Глінкі — беларуская і польская дыялекталогія, мова беларускага фальклору. «З даследаванняў усходнеславянскіх дыялектаў Беласточчыны» — тэма доктарскай дысертацыі вучонага. У падрыхтаваным пры непасрэдным удзеле і пад рэдакцыяй С. Глінкі «Атласе ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны» (т. 1—3, 1980—89, Вроцлаў) вылучаны агульныя ізаглосы беларускіх, украінскіх і польскіх моўных з'яў на тэрыторыі Беласточчыны, што мае важнае значэнне пры даследаванні моўных кантактаў, класіфікацыі дыялектаў, вылучэнні дыялектных зон і вывучэнні розных пытанняў гісторыі і дыялекталогіі славянскіх моў. Атлас меснціць фанетычныя, марфалагічныя і лексічныя карты, багатая інфармацыя якіх мае вялікую каштоўнасць як пры даследаванні актуальных праблем лінгвістыкі, так і сумежных дысцыплін. Глінка дакладна вызначыў заходнюю мяжу беларускіх гаворак на Беласточчыне на поўнач ад Нарвы, ахарактарызаваў іх фанетычную дыферэнцыяцыю.

С. Глінка прааналізаваў некаторыя фанетычныя, словаўтваральныя і лексічныя асаблівасці паэтычнай мовы сабраных М. Федароўскім беларускіх народных песень. Выкарыстоўваючы статыстычны метад у гэтай працы, Глінка зрабіў шмат новых назіранняў у галіне дыялекталогіі, стылістыкі і гісторыі беларускай мовы. У час падрыхтоўкі да выдання V—VII тамоў «Люду беларускага» М. Федароўскага С. Глінка прымаў удзел у рабоце па атрыбуцыі рукапісаў беларускіх песень, запісаных М. Федароўскім у 1877—1905 гг., і склаў каментарыі да іх.

*Тв.:* Granica jezykowa i przykłady zróżnicowania fonetycznego gwar białoruskich Białostocczyzny // Sprawozdania z Prac Naukowych Wydziału Nauk Społecznych. PAN. 1960. z. 5; O języku białoruskich pieśni ludowych w zbiorze M. Federowskiego // M. Federowski. Lud Białoruski. Warszawa, 1969. T. 7; Lituanizmy fonetyczne w gwarach białoruskich i polskich Białostocczyzny Bałto-słowiańskie związki językowe. Wrosław ets., 1989.

*А. С. Аксамітаў.*

## ГРАМАТЫКА

Слова «граматыка» ўжываецца ў некалькіх значэннях. Самае вядомае і пашыранае ў гутарковай мове значэнне замацавана ў выказваннях тыпу «Усе ў школе вывучалі граматыку» або «Ён граматыкі не ведае». Тут пад граматыкай разумеюць агульныя заканамернасці функцыянiравання мовы і адпаведна агульныя правілы карыстання мовай, у тым ліку і правілы фанетыкі і нават словаўжывання, якія да граматыкі (у вузкім, спецыяльным значэнні слова) не адносяцца.

Чаму ж слова «граматыка» можа ўжывацца ў такім шырокім, абагульняльным значэнні? Гэта звязана, па-першае, з паходжаннем слова, з яго этымалогіяй. У старажытнагрэчаскай мове выраз τέχνη γραμματική (ад γάμματα літары) значыў «мастацтва чытання і пісання». Такое значэнне захоўвалася вельмі доўга. Так, Л. Зізаній у 16 ст. пісаў: «Граматіка есть певное ведане жебысмы добре мовили и писали». Такое разуменне слова «граматыка» дайшло і да нашых дзён. Па-другое, граматыка ўяўляецца нам такой істотнай «часткай» мовы, такой значнай, сутнаснай яе характарыстыкай, што ўсё астатняе як бы ўжо не мае значэння і так ці інакш падпарадкоўваецца ёй. Пэўная доля ісціны тут ёсць: граматыка — гэта сапраўды найбольш істотная і відавочная ўласцівасць мовы — і кожнай канкрэтнай (беларускай, кітайскай або эскімоскай і г. д.), і чалавечай мовы наогул.

Але ў сістэме сучасных лінгвістычных (г. зн. навуковых, а не штодзённых) уяўленняў, паняццяў і тэрмінаў слова «граматыка» мае акрэсленае, спецыяльнае значэнне: па-першае, лад мовы, г. зн. сістэма яе формаўтваральных і формаспалучальных сродкаў; па-другое, раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца сістэма форм слова (марфалогія) і правілы іх спалучэння ў сказах (сінтаксіс).

Граматыка (у апошнім значэнні слова), разам з фанетыкай і лексікалогіяй, традыцыйна ўключаецца ў структурны падзел мовы. Пры гэтым лічыцца, што фанетыка і граматыка маюць дачыненне да агульных катэгорый (галосныя і зычныя, звонкія і глухія, мяккія і цвёрдыя гукі; назоўнік, дзеяслоў, прыметнік; дзейнік і выказнік; галоўныя і даданыя члены сказа; сказы простыя і складаныя і пад.), а лексікалогія — да прыватных, індывідуальных моўных адзінак. Іншымі словамі, фанетыка і граматыка займаюцца класамі моўных адзінак (гукаў, марфем, слоў, словазлучэнняў, сказаў), а лексікалогія — канкрэтнымі моўнымі адзінкамі (кожным словам, незалежна ад яго ўваходжання ў пэўны граматычны разрад або клас).

У сваю чаргу граматыка проціпастаўляецца фанетыцы на тых падставах, што яна цікавіцца моўнымі знакамі, г. зн. матэрыяльнымі адзінкамі, якія абавязкова маюць і пэўнае значэнне (марфемамі: *ход-, пера-, -ну-* і г. д.; словамі: *сад, чытаць, восьмы, шосты*; словазлучэннямі: *апошні дзень, відаць здалёк*; сказамі: *Набліжалася восень. Птушкі збіраліся ў вырай)*, а фанетыка — такімі адзінкамі, што самі па сабе значэння не маюць (гукі: [б], [дж], [а], [і], [у] і г. д.; склады: *га-ла-ва, ад-ля-цець)*.

Калі гавораць пра граматыку беларускай мовы, то па традыцыі называюць 2 яе часткі: марфалогію, якая вывучае будову слова, і сінтаксіс, прадметам якога з'яўляюцца правілы спалучэння слоў у сказе. Трэба, аднак, мець на ўвазе, што беларуская граматыка — гэта толькі адзін, прыватны выпадак унутранай арганізацыі натуральнай чалавечай мовы. Існуе вельмі многа іншых моў, якія істотна адрозніваюцца ад беларускай прынцыпамі сваёй граматычнай будовы. Ёсць мовы з беднай марфалогіяй, ёсць мовы, дзе сказ будуецца як адзінае складанае слова, і г. д. Характарызуючы ў далейшым асаблівасці граматыкі, мы будзем абапірацца на матэрыял беларускай мовы, найгалоўнейшымі граматычнымі адзінкамі якой з'яўляюцца слова і сказ.




**Беларускія граматыкі для вышэйшай і сярэдняй школы.**

Слова (як і іншыя знакі — марфема, словазлучэнне, сказ) мае 2 бакі або два планы: унутраны — семантычны і знешні — матэрыяльны, гукавы. Семантыка слова неаднародная. Перш за ўсё ў ёй можна вылучыць лексічныя і граматычныя кампаненты. Граматычная семантыка якасна адрозніваецца ад семантыкі лексічнай. У лексічных значэннях слоў як моўных адзінак звычайна знаходзяць адлюстраванне і абагульняюцца ўласцівасці рэальных прадметаў і з'яў, у граматычных жа — адлюстроўваюцца пераважна ўласцівасці саміх моўных адзінак. Так, кожнае са слоў *дом, год, бег, сон* суадносіцца з пэўным паняццем і праз яго — з адпаведнай канкрэтнай з'явай рэчаіснасці. Такое суаднясенне і ёсць лексічнае значэнне кожнага з прыведзеных вышэй чатырох слоў. Але ж іх семантыка гэтым не вычэрпваецца. Кожнае з іх мае яшчэ значэнне прадметнасці, роду, ліку, склону. Гэтыя значэнні — уласцівасці саміх слоў, на падставе якіх яны аб'ядноўваюцца ў граматычную групу «назоўнік мужчынскага роду адзіночнага ліку назоўнага склону».

Аднак паміж граматычнымі і лексічнымі значэннямі няма непераходнай мяжы. Яны як бы па-рознаму размяркоўваюцца ў розных мовах: тое, што ў адной мове паслядоўна выражаецца сродкамі граматыкі, у іншай мове перадаецца лексічна, і наадварот. Напрыклад, значэнне сумеснасці дзеяння перадаецца ў беларускай мове асобнымі словамі *(Алесь пайшоў у лес **разам** з бацькам)*, а ў мангольскай — дзеяслоўным суфіксам. Нават і ў адной мове ўласна граматычнае значэнне можа як бы дубліравацца лексічнымі сродкамі. У сказе *Андрэйка **пойдзе** з сябрамі ў паход* дзеяслоў мае граматычнае значэнне закончанага трывання і будучага часу, якое можа быць перададзена лексічна: *Андрэйка **заўтра ідзе** з сябрамі ў паход.* Суадносіны лексічных і граматычных значэнняў — адна з найскладанейшых мовазнаўчых праблем.

Уласцівыя пэўнай мове граматычныя паняцці маюць у ёй абавязковае матэрыяльнае выяўленне, таму ў кожнай граматычнай з'яве адрозніваюць граматычнае значэнне і граматычны спосаб яго перадачы. Асноўнымі спосабамі перадачы граматычных значэнняў у беларускай мове, уласцівымі ў рознай ступені ўсім мовам свету, з'яўляюцца: афіксацыя *(стол — сталы, кідаць — кінуць, чырвоны — чырвонага — чырвонаму)*, суплетывізм, або змена асноў слова *(я — мяне, чалавек — людзі, браць — узяць)*, службовыя словы *(чытаў бы, будзеш ведаць)*, рэдуплікацыя, або падваенне *(белы-белы, ледзь-ледзь)*, асноваскладанне (дыялектнае *хадзіцьму*, утворанае з *хадзіць* + *іму* — маю ха-

дзіць), парадак слоў (*цікавая кніга — кніга цікавая, Мінск — сталіца Беларусі — Сталіца Беларусі — Мінск*), інтанацыя (*Ён ужо прыйшоў — Ён ужо прыйшоў?*). Няцяжка заўважыць, што граматычныя спосабы можна падзяліць на 2 тыпы ў залежнасці ад таго, дзе — у межах слова ці па-за яго межамі — знаходзіцца граматычны сродак перадачы граматычнага значэння. У першым выпадку маем справу з сінтэтычным, у другім — з аналітычным спосабам выражэння граматычных значэнняў. Гэта з'ява — сінтэтызм і аналітызм — настолькі істотная для граматыкі, што на яе падставе нават падзяляюць і самі мовы на аналітычныя і сінтэтычныя. «Чыстых» тыпаў моў няма, але які-небудзь з двух гэтых спосабаў пераважае. Беларуская мова адносіцца да сінтэтычных моў, але і ў ёй шырока прадстаўлена так званае аналітычнае канструяванне, калі на граматычнае значэнне той або іншай адзінкі ў сказе пэўным чынам указваюць іншыя адзінкі. Напрыклад, граматычнае значэнне словаформы *лесам* перадаецца і сінтэтычна (канчатак *-ам* указвае на род, лік, склон), і *аналітычна*. Калі *лесам* спалучаецца з дзеясловамі руху (*ісці, ехаць, бегчы лесам*), то словаформа мае сінтаксічнае значэнне акалічнасці, а калі яна далучаецца да дзеяслова іншага семантыка-сінтаксічнага класа (*валодаць лесам, любавацца лесам*), то набывае значэнне дапаўнення. Значыць, дзеяслоў, акрамя сваіх уласных граматычных значэнняў і адпаведных сінтэтычных сродкаў іх перадачы, выконвае яшчэ і ролю аналітычнага сродку, бо сігналізуе аб тым, якое граматычнае (сінтаксічнае) значэнне мае залежнае ад яго слова *лесам*.

Слова разам з паказчыкам яго граматычнага значэння ўтварае граматычную форму. Напрыклад, *братамі* — граматычная форма множнага ліку творнага склону мужчынскага роду назоўніка *брат*. Граматычныя формы, што перадаюць змяненне аднаго слова ў межах пэўных граматычных значэнняў (склону, ліку, часу, асобы і інш.), утвараюць парадыгмы словазмянення. Іх у першую чаргу і вывучае марфалогія.

Усе адзінкі моўнага ладу (і перш за ўсё словы) размяркоўваюцца па пэўных класах — граматычных катэгорыях. У гістарычным развіцці граматычных катэгорый, у самім іх існаванні апасродкавана адлюстроўваецца развіццё мыслення, здольнасць чалавека да абстрагавання і абагульнення. У беларускай мове, напрыклад, адрозніваюць граматычныя катэгорыі дзеяслова, назоўніка, прыметніка і інш., а ў межах катэгорыі назоўніка — катэгорыі роду, склону, а таксама адзінкавасці і зборнасці, абстрактнасці і канкрэтнасці і г. д. Пытанне аб колькасці катэгорый у пэўнай мове вельмі складанае. Побач з даўно заўважанымі і навукова апісанымі цэнтральнымі катэгорыямі існуюць і катэгорыі перыферыйныя, часам лінгвістычна зусім не распрацаваныя. Пры больш дэталёвым вывучэнні моў, больш глыбокім пранікненні ў іх будову нярэдка адкрываецца граматычная прырода з'яў, якія раней граматычна не разглядаліся.

Граматычныя катэгорыі ўтвараюць складаную іерархічную сістэму з рознанакіраванымі функцыянальнымі сувязямі. Найбольш простым прыкладам такіх сувязей можа служыць проціпастаўленне катэгорый па наяўнасці — адсутнасці пэўнага граматычнага значэння, напрыклад: назоўнік — неназоўнік, мужчынскі род — немужчынскі род, закончанае трыванне — незакончанае трыванне і г. д. На падставе такіх і іншых, значна больш складаных апазіцый (проціпастаўленняў) граматыка фарміруе класы адзінак. Пытанне аб граматычнай класіфікацыі слоў (у прыватнасці — аб часцінах мовы) — адна з самых важных і складаных праблем тэарэтычнага мовазнаўства.

Вельмі важнай асаблівасцю граматычнай арганізацыі мовы з'яўляецца наяўнасць у ёй так званых граматычных палёў і граматычнай сінаніміі. Граматычныя палі ўзнікаюць тады, калі вакол пэўнага граматычнага значэння, якое заўсёды з'яўляецца стрыжнем граматычнай катэгорыі, групуюцца розныя формы, здольныя па-рознаму перадаваць гэта значэнне,— ад найбольш тыповых, непасрэдна прызначаных для гэтай ролі, да факультатыўных, рэдкіх, менш ужывальных, а часам амаль што выпадковых. Так, граматычнае значэнне колькасці перадаецца ў беларускай мове пры дапамозе афікса множнага ліку (*яблыкі*), колькасным лічэбнікам (*пяць яблыкаў*), колькасным займеннікам (*некалькі яблыкаў*), колькасным прыслоўем (*многа яблыкаў*) і нават факультатыўна ўжытым у значэнні лічэбніка (нумаралізаваным) назоўнікам (*шапка яблыкаў, цэлае падваконне яблыкаў*). Граматычнае поле мае звычайна цэнтр і перыферыю. У разгледжаным выпадку афікс множнага ліку і лічэбнік утвараюць цэнтр «поля колькаснасці», а астатнія формы — па-рознаму аддаленыя ад цэнтра элементы перыферыі гэтага поля. З наяўнасцю граматычнага поля, з суадносінамі паміж яго элементамі звязана такая з'ява, як граматыкалізацыя — функцыянальны пераход лексічнай адзінкі ў граматычную. Поўнай граматыкалізацыяй з'яўляецца пераход адной з граматычных форм дзеяслова *быць* у часціцу *бы* (*чытаў бы, зрабілі б*), зваротнага займенніка — у часціцу *-ся* (*збіраюся, клапоцяцца*). Пэўная ступень граматыкалізацыі адзначаецца для розных слоў і ў разгледжаным вышэй «полі колькаснасці»: лічэбнік траціць адносную граматычную самастойнасць, бо ўваходзіць у склад члена сказа (*Я купіў пяць яблыкаў; пяць яблыкаў* — аналітычна аформленае дапаўненне); назоўнік *шапка* ператвараецца функцыянальна ў лічэбнік, метафарычна ўказвае на колькасць прадметаў і таксама не ўтварае самастойнага члена сказа.

З'яву граматычнай сінаніміі можна праілюстраваць наступным прыкладам. У сказах *Сёння мароз; Сёння марозіць; Сёння марозна* апісваецца адна і тая ж пазамоўная сітуацыя, але пры гэтым выкарыстоўваюцца розныя граматычныя сродкі. Тут вакол аднаго неграматычнага значэння — значэння сказаў як знакаў пэўнай пазамоўнай сітуацыі — групуюцца розныя, але ў даным выпадку сінанімічныя граматычныя значэнні.

Наяўнасць граматычных палёў і граматычнай сінаніміі ператварае граматыку любой натуральнай мовы ў выключна гнуткі механізм перадачы як пазамоўнай, так і ўласна моўнай (граматычнай) інфармацыі.

У залежнасці ад мэт вывучэння і апісання мовы граматыкі падзяляюцца на розныя тыпы. Так, навуковая апісальная граматыка адлюстроўвае граматычны лад, граматычную сістэму мовы пэўнай эпохі. Нарматыўная граматыка вызначае, якія тыпы форм і канструкцый суіснуюць у мове, і дае іх нарматыўную ацэнку, г. зн. рэкамендуе або не рэкамендуе ўжываць пэўныя формы. Гістарычная граматыка падае сістэму мовы ў часе, г. зн. апісвае прычыны, працэсы і вынікі змянення моўных форм. Параўнальная граматыка, абапіраючыся на законы развіцця мовы (фанетычныя законы, законы *аналогіі* і інш.), здзяйсняе сістэмнае супастаўленне і параўнанне фактаў розных моў у сінхронным ці гістарычным плане. Тыпалагічная граматыка апісвае мову (ці мовы — як роднасныя, так і генетычна далёкія) у адпаведнасці з пэўнымі, тэарэтычна выпрацаванымі мадэлямі пабудовы натуральных моў або штучных знакавых сістэм. Развіццё мовазнаўства выклікала да жыцця і новыя тыпы граматык. Структурная граматыка галоўную ўвагу накіроўвае на аналіз функцый моўных элементаў і іх сістэмныя сувязі. Трансфармацыйная граматыка мадэлірue мову як своеасаблівы механізм спараджэння адзінак вышэйшых узроўняў і тэксту ў цэлым з пэўных зыходных элементаў.

Граматыка як навука звязана з многімі галінамі чалавечых ведаў — логікай, псіхалогіяй, семіётыкай, матэматыкай і інш. Найбольш цесныя сувязі яна мае з навукамі філалагічнага цыкла — фанетыкай, лексікалогіяй, фразеалогіяй, стылістыкай, тэорыяй тэксту, літаратуразнаўствам і г. д. Пры даследаванні структуры мастацкага твора ўлічваюцца і яго граматычныя асаблівасці, паколькі многія граматычныя катэгорыі маюць

стылістычную вартасць, што непазбежна адлюстроўваецца ў творах слоўнага мастацтва і нярэдка стварае своеасаблівасць асобнага твора ці нават творчасці асобнага пісьменніка (так званая аўтарская граматыка). Многія выяўленчыя сродкі мастацкага стылю з'яўляюцца ні чым іншым, як граматычнымі катэгорыямі ў іх эстэтычных функцыях. Прыкладам могуць служыць такія фігуры стылістычнага сінтаксісу, як зваротак, назыўны і безасабовы сказ, перыяд, аднародныя члены, рытарычнае пытанне і г. д.

Распрацоўка граматычнай тэорыі ў старажытнасці дасягнула высокага ўзроўню ў Індыі. Еўрапейскія традыцыі ў вывучэнні граматычнага ладу моў бяруць пачатак у антычнай граматыцы, якая зарадзілася як сінкрэтычная філалагічная навука, звязаная найперш з вытлумачэннем старажытных тэкстаў (біблейскіх паданняў, паэм Гамера і пад.). Асноўнай тэндэнцыяй у развіцці граматычнай думкі ў Еўропе было паступовае вызваленне ад схем і ўяўленняў грэкалацінскай навукі, пошук паняццяў і метадаў даследавання, якія далі б магчымасць дакладна і адэкватна апісваць кожную канкрэтную мову. Значны ўклад у развіццё граматычнай тэорыі зрабілі айчынныя вучоныя М. В. Ламаносаў, Ф. І. Буслаеў, А. А. Патабня, А. А. Шахматаў, Л. У. Шчэрба, А. М. Пяшкоўскі, В. У. Вінаградаў, П. С. Кузняцоў і інш. Пачынальнікамі навуковай распрацоўкі граматыкі беларускай мовы былі Л. Зізаній, П. М. Шпілеўскі, К. Нядзведскі, І. А. Нядзёшаў, Я. Ф. Карскі, Б. Пачобка, Б. А. Тарашкевіч і інш.

*Літ.*: Кузнецов П. С. О принципах изучения грамматики. М., 1961; Есперсен О. Философия грамматики. М., 1958; Общее языкознание. М., 1972; Шуба П. П. Уводзіны ў граматыку беларускай мовы. Мн., 1969; Граматыка беларускай мовы. Т. 1—2. Мн., 1962—66; Беларуская граматыка. Ч. 1—2. Мн., 1985—86. *А. Я. Міхневіч.*

## «ГРАМАТЫКА» Л. ЗІЗАНІЯ

У канцы 16 ст. філалагічная думка на Беларусі дасягнула значных поспехаў. У гэты час у Вільні было надрукавана некалькі дапаможнікаў для вывучэння царкоўнаславянскай мовы, найбольш значнымі з іх былі «Кграматика словеньска языка» (1586) і «Грамматіка словенска съвершеннаго искуства осми частій слова» (1596), складзеная педагогам і царкоўным дзеячам Лаўрэнціем Зізаніем [?—1634(?)], якая прызначалася «спудзеям» — вучням брацкіх школ. Гэта была першая сістэматычная граматыка царкоўнаславянскай мовы, якая




**«Граматыка» Л. Зізанія (тытульны ліст). 1596.**

ужывалася ва ўсходніх славян. У прадмове да граматыкі і эпіграме на яе аўтар называў граматыку ключом, што адкрывае шлях да пазнання ўсіх навук, настаўніцай «добрай славянскай мовы», бачыў у ёй дапаможнік, каб навучыць «добре писати и добре читати, досконалым и певным быти» і ні ў чым не памыляцца.

Невялікая памерам «Граматыка» насычана вызначэннямі, правіламі, парадыгмамі скланення іменных часцін мовы, спражэння дзеясловаў. Каб больш даходліва растлумачыць граматычныя паняцці, Зізаній падаваў матэрыял у форме пытанняў і адказаў на царкоўнаславянскай і беларускай, або «простай рускай», мовах: «Что есть Грамматіка? Грамматіка естъ известное вежество, еже благо глаголати и писати. Толкованіе. Грамматіка естъ певное веданье, же быс мы добре мовили и читали». Форма выкладання ў пытаннях і адказах не была праведзена аўтарам да канца, а толькі ў дзвюх першых частках і на пачатку трэцяй.

«Граматыка» прызначалася ў першую чаргу для вывучэння царкоўнаславянскай мовы, якой карысталіся на ўсходнеславянскіх землях у канцы 16 ст. і якая да гэтага часу паступова насычалася мясцовымі моўнымі элементамі. Таму Зізаній пры тлумачэнні асобных з'яў царкоўнаславянскай мовы выкарыстоўваў і асаблівасці беларускай мовы, што надавала яго працы адметны каларыт, садзейнічала збліжэнню мовы рэлігійнага пісьменства з беларускай. Мясцовы моўны матэрыял выкарыстоўваўся ім не як аб'ект даследавання, а як сродак апісання царкоўнаславянскай мовы.

«Граматыка» Зізанія складалася з чатырох частак: арфаграфіі, прасодыі, этымалогіі (вучэння пра часціны мовы, іх колькасць, парадак размяшчэння і граматычныя асаблівасці) і сінтаксіса (апошні раздзел не разглядаўся). Пры тэарэтычным асэнсаванні моўных фактаў аўтар абапіраўся на традыцыі грэчаскай і лацінскай лінгвістычнай тэорыі. У арфаграфіі апісаны «писмена» (літары), якія падзелены на галосныя і зычныя. Асаблівасці правапісу галосных літар выкладзены ў «Канонах арфаграфіі», змешчаных у канцы кнігі. У правапіснай сістэме «Граматыкі» адлюстраваны працэс больш-менш свабоднага пранікнення народна-гутарковай стыхіі ў рэлігійнае пісьменства. Гэта выразна праявілася ў паасобных выпадках перадачы такіх спецыфічных рыс беларускай мовы, як аканне (*скланение, скланятися*), зацвярдзенне губных, шыпячых і *р* [*любовъ, осмъ, церковъ, сиречъ, бившыя, помощъ, чого, чотыри, дверъ, зру* (і *зрю*), *твору* (і *творю*)].

У прасодыі падрабязна разгледжаны асаблівасці націску, яго віды, сюды ж уключаны параграф аб знаках прыпынку і ўжыванні цітлы.

У раздзеле «Этымалогія» ўсе словы падзелены на пэўныя лексіка-граматычныя групы і размешчаны ў адпаведным парадку. Аўтар разгледзеў марфалагічныя асаблівасці васьмі часцін мовы, сярод якіх вылучыў скланяльныя (імя, займеннік, дзеяслоў, дзеепрыметнік, адносны член) і нескланяльныя (прыназоўнік, прыслоўе, злучнік). Найбольшая ўвага аддадзена імёнам (назоўнікі, прыметнікі, лічэбнікі) і дзеяслоўным формам. Менавіта ў марфалогіі Зізаній часта побач з царкоўнаславянскімі прыводзіў і ўсходнеславянскія формы, агульныя для беларускай і ўкраінскай моў, прычым без каментарыяў: *богов, снегов, чловеков* і *бог, снег, чловек* (родны склон множнага ліку); *чловеками, отрочатами* і *чловеки, отрочаты* (творны склон множнага ліку); *временах, северях, спасеніях, морях, матерях* (месны склон множнага ліку). Гэта адлюстроўвала працэс уніфікацыі старажытных тыпаў скланення назоўнікаў, які адбываўся ў народна-гутарковай мове і аказваў уплыў на фарміраванне норм мясцовай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы. Зізаній выкарыстаў уласцівыя беларускай мове формаўтваральныя сродкі пры апісанні асаблівасцей утварэння ступеней параўнання прыметнікаў (суфіксы *-ейш-, -ш-*, прыстаўку *най-*): *святый, святейший, мал, менший, найменший; зол, злейший, горший, найгорший.* Беларускія формы побач з царкоўнаславянскімі сустракаліся і пры разглядзе займеннікаў: адпаведна *собе, тым, тых, той* і *себе, там, тех, то.* Гэта тэндэнцыя адлюстравана і ў сістэме цяперашняга часу дзеясловаў, дзе паралельна выкарыстоўваліся традыцыйныя і народна-гутарковыя формы, якія да нашага часу бытуюць

ва ўкраінскай мове і ў некаторых беларускіх гаворках: *въставаемъ, спасаемся* і *въставаймо, спасаемо.* Уздзеянне жывой мовы на царкоўнаславянскую выразна праявілася ва ўжыванні ў самім тэксце «Граматыкі» і прадмове да яе лексем *але, годность, голос, гумно, дарую, деля, досыть, ведати, выдати, з друку, лагодная, мовити, потреба, працуючи, последуючи, родный* (склон), *шію* (ад шыць), *што*, якія ўвайшлі ў актыўны слоўнікавы склад нашай мовы.

Увядзенне Зізаніем у тэкст «Граматыкі» мясцовых моўных асаблівасцей і кадыфікацыя іх у якасці нормы царкоўнаславянскай мовы адлюстроўвала стан апошняй на Беларусі і Украіне, садзейнічала пераўтварэнню яе ў асобную рэдакцыю (тып), якая склалася ў творах рэлігійнага пісьменства 2-й паловы 16 ст. Гэта сведчыла і пра тое, што Зізаній імкнуўся зблізіць названыя мовы і не заўсёды размяжоўваў іх.

Стварыўшы граматыку, Зізаній актыўна спрыяў развіццю мовазнаўства на Беларусі, Украіне і ў Маскоўскай Русі, даў штуршок развіццю вучэбна-педагагічнай літаратуры. Да з'яўлення ў 1619 г. «Граматыкі» М. Сматрыцкага кніга Зізанія была адным з найбольш папулярных падручнікаў для вывучэння царкоўнаславянскай мовы. Нават пасля выхаду ў свет «Граматыкі» Сматрыцкага яна не страціла свайго значэння, а пры перавыданні апошняй (Масква, 1648) у яе былі ўключаны асобныя раздзелы «Граматыкі» Зізанія.

*Літ.*: Анічэнка У. В. «Граматыка» Л. Зізанія // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1957. № 4; Ботвинник М. Б. Лаврентий Зизаний. Мн., 1973. *Дз. Дз. Пайлавец.*

## «ГРАМАТЫКА» М. СМАТРЫЦКАГА

Работа беларускага і ўкраінскага пісьменніка-палеміста, рэлігійнага дзеяча, вучонага і педагога Мялеція Сматрыцкага (1577—27.12.1633), «Грамматіки славенския правилное синтагма» (Еўе, 1619) з'яўляецца адным з найвыдатнейшых помнікаў усходнеславянскай філалагічнай думкі 17 ст. М. В. Ламаносаў называў яе «варотамі сваёй вучонасці». Больш за стагоддзе яна была асноўным падручнікам, па якім у школах Беларусі, Маскоўскай Русі і Украіны вывучалі царкоўнаславянскую мову. Пра высокі аўтарытэт «Граматыкі» сведчыць той факт, што яна двойчы перавыдавалася з нязначнымі зменамі ў Маскве (у 1648 і 1722 гг.), у 18—1-й палавіне 19 ст. стала ўзорам для сербскай, харвацкай, румынскай і балгарскай граматык. На яе ўзор ствараліся шматлікія друкаваныя і рукапісныя граматычныя дапаможнікі не толькі ва ўсходняй частцы славянскага свету, але і ў паўднёваславянскіх землях, краінах каталіцкага Захаду. «Граматыка» вызначыла цэлы этап у вывучэнні царкоўнаславянскай мовы. Яе аўтар на тагачаснай навуковай аснове падрабязна і поўна сістэматызаваў шматлікі моўны матэрыял. Выдадзеная для практычных патрэб школьнай асветы, «Граматыка» мела не толькі культурнае, але і грамадска-палітычнае значэнне: пасля яе з'яўлення прадстаўнікі каталіцызму і уніяцтва перасталі адкрыта гаварыць пра царкоўнаславянскую мову як неўнармаваную, граматычна не распрацаваную і малазразумелую.



**Мялецій Сматрыцкі.**

Асноўнае прызначэнне «Граматыкі» Сматрыцкі бачыў у тым, каб навучыць правільна чытаць і разумець царкоўнаславянскія тэксты, пісаць, каб узняць «занедбаный, а церкви нашей природный язык» і даць «вырозумене его, уживане и пожиток» сярод народа. Аўтар паслядоўна адрозніваў царкоўнаславянскую мову ад «простай рускай», на асаблівасці якой спасылаўся ў шматлікіх заўвагах, выключэннях з правіл, шчодра рассыпаных па ўсёй кнізе. Напрыклад: *По, сказуемое российски ведлуг; Удержи язык свой от зла и устне свое еже не глаголати лсти. Руски истолковуем: Гамуй язык свой от злого, и уста твои нехай не мовять здрады. Скоро предвари, даже не поработимся. Руски: Рихло упереди, поки не будем зневолени.*

Пад тэрмінам «руская мова» ў старажытнасці мелася на ўвазе беларуская (і ўкраінская), якая была дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага. Такім чынам, выкарыстоўваючы як тлумачальны ўсходнеславянскі, у прыватнасці беларускі, моўны матэрыял, Сматрыцкі ўскосна вывучаў і нашу мову. Выкарыстанне ўсходнеславянскіх моўных элементаў надавала яго «Граматыцы» своеасаблівы характар.

Напісаная ў рэчышчы грэчаскіх і лацінскіх мовазнаўчых традыцый, «Граматыка» вызначалася ўдала распрацаванай структурай. Яна ўключала арфаграфію, этымалогію (навуку пра часціны мовы), прасодыю (вучэнне пра віды націску і абазначэнні іх на пісьме), тэорыю вершаскладання, сінтаксіс.

Пад арфаграфіяй Сматрыцкі разумеў не толькі аднастайныя правілы перадачы слова на пісьме, але і правільнае вымаўленне, пастаноўку знакаў прыпынку. Усе літары ён падзяліў на галосныя і зычныя. Сярод галосных ён адрозніваў «самогласная» (поўнага ўтварэння) і «припряжногласная» (рэдукаваныя *ь, ъ*), якія не абазначалі гука, а ўжываліся для абазначэння мяккасці або цвёрдасці зычных, напр.: *кровь* і *кровъ, часть* і *частъ, ядь* і *ядъ*. Цікавы падзел зычных на «полгласна» (вымаўляліся з удзелам голасу) і «безгласна» (вымаўляліся без удзелу голасу), у якім намечана сучасная дыферэнцыяцыя на звонкія і глухія.

З дзейнасцю Сматрыцкага-філолага добра суадносіцца эпітэт «упершыню». Сапраўды, ён быў першаадкрывальнікам многіх лінгвістычных тэрмінаў ва ўсходнеславянскім мовазнаўстве. Так, у яго «Граматыцы» ў раздзеле «Этымалогія» ўпершыню ўжыты паняцці: *собирательные существительные; сказательный падеж* (месны склон); *междометие* і зроблена яго апісанне як асобнай часціны мовы; *деепричастие* і яго характарыстыка як асобнай формы дзеяслова; *наклонение* і інш.

Сматрыцкі падзяліў усе склоны на прамыя і ўскосныя, адзначыў, што прыметнікі могуць мець поўную і кароткую формы, дзеляцца на «уравняемые» (якасныя) і «неуравняемые» (адносныя).

Адным з першых Сматрыцкі пачаў распрацоўваць пытанні стылістычнага сінтаксісу, даў падрабязнае апісанне разнастайных стылістычных фігур. Невялікі раздзел «Граматыкі» прысвечаны тэорыі вершаскладання, у якім выкладзены парады для жадаючых пісаць вершы, апісаны найбольш ужывальныя стопы і вершаваныя памеры (метры).

Нягледзячы на імкненне Сматрыцкага захаваць чысціню царкоўнаславянскай мовы, гэта яму не ўдалося зрабіць — у «Граматыцы» быў кадыфікаваны яе ўсходнеславянскі варыянт з пэўнай колькасцю мясцовых элементаў. Таму ў парадыгмах скланення назоўнікаў вельмі часта ў якасці асноўнай ці варыянтнай нормы кадыфікаваны новыя і традыцыйныя складнавыя формы тыпу *сыну, дому* і *сынови, домови; врачев, грехов, другов* і *врачъ, грех, друг; мятежей, пастырей* і *мятежь, пастырь; воинами, сынами, сердцами* і *воины, сыны,*

*сэрцы.* Добрае веданне моўнай практыкі ўсходніх славян дало вучонаму падставу сцвярджаць, што замест усіх форм прошлага часу можна ўжываць колішнія перфектныя ўтварэнні, напрыклад: замест *чтох, читаах, прочтох* можна *чел екмь, читаал есмь, прочел есмь.* Такая замена аорыста і імперфекта формамі перфекта была характэрна для помнікаў старабеларускага рэлігійнага пісьменства.

Да старабеларускай мовы Сматрыцкі звяртаўся і пры апісанні асаблівасцей утварэння ўмоўнага ладу: *аще бы творил, -ла, -ло* тлумачыцца *гды бым чинил* і г. д.

Уласна беларускіх моўных асаблівасцей у «Граматыцы» параўнальна нямнога, пераважна гэта лексічныя, правапісныя і акцэнталагічныя адрозненні: *верши, година, зазябил, з мовою, нехай, пильность, пожиток, поки, пилую; гримю, возгримю, мыю, шію, целбу, меняют; была́, было́, зло́дей, имя́, кра́ду* і інш. Сматрыцкаму добра былі вядомы асаблівасці народна-гутарковага вымаўлення, таму ў адным з арфаграфічных правіл ён рэкамендаваў не змешваць на пісьме літары *ф* і *хв*, адрозніваць выбухны і фрыкатыўны *г* (ён увёў для іх перадачы адпаведныя графемы Ґ і *г*), не блытаць *е* і *ѣ*, што было звычайнай з'явай старабеларускага пісьменства. Гэтыя і іншыя асаблівасці жывой мовы, на якія аўтар звяртаў увагу, не парушалі структуры царкоўнаславянскай мовы, а толькі падкрэслівалі, што ён выразна адрозніваў іх.

«Граматыка» Сматрыцкага кадыфікавала царкоўнаславянскую мову, якая была вядома на Беларусі і Украіне і якая адчувала пэўны ўплыў з боку беларускай і ўкраінскай, што вызначыла наяўнасць у ёй (мове) варыянтных граматычных форм, лексічных адзінак, асобных правапісных і акцэнталагічных адхіленняў. Праца Сматрыцкага зрабіла вялікі ўплыў на станаўленне і развіццё айчыннага мовазнаўства, якое, па трапнай заўвазе Ф. Буслаева, вядзе свой адлік ад граматык Зізанія і Сматрыцкага.

*Літ.:* Німчук В. В. Граматика М. Смотрицького — перлина давнього мовознавства // Мелетій Смотрицький: Граматика // Підготовка факсимільного відання та дослідження пам'ятки В. В. Німчука. Київ, 1979; Короткий В. Г. Творческий путь Мелетия Смотрицкого. Мн., 1987; Анічэнка У. В. Вывучэнне мясцовай разнавіднасці кніжнаславянскай мовы ў граматыцы М. Сматрыцкага // Східнослов'янські граматики XVI — XVII ст. Київ, 1982.

*Дз. Дз. Паўлавец.*

## «ГРАМАТЫКА» І. УЖЭВІЧА

Вялікія кнігі жывуць звычайна сваім жыццём, найчасцей незалежным і адметным ад лёсу іхняга творцы. Гэта стасуецца і да «Граматыкі славенскай» і яе аўтара Івана Ужэвіча. Яна дайшла да нас у двух рукапісных варыянтах 17 ст.— парыжскім 1643 г. і араскім 1645 г., якія былі ўпершыню надрукаваны фотатыпічным спосабам у 1970 г. ў Кіеве. І. Ужэвіч быў студэнтам тэалагічнага факультэта Парыжскага універсітэта — сусветнавядомай Сарбоны. Яго «граматыка» сведчыць пра лінгвістычны талент і арыгінальнасць падыходу да моўнага матэрыялу, з'яўляецца унікальнай ва ўсходнеславянскай лінгвістычнай традыцыі. Тлумачальны матэрыял у ёй напісаны на лацінскай мове, а ілюстрацыйны і парадыгмы — кірыліцай. Такі спосаб абумоўлены тым, што сваю работу Ужэвіч арыентаваў перш за ўсё на заходнееўрапейскага чытача, які цікавіўся мовай сваіх суседзяў з Усходняй Еўропы. Большую частку фактаў апісанай у «Граматыцы» мовы Ужэвіч супастаўляў з лацінскай, якая была ў той час міжнароднай; звяртаў вялікую ўвагу на адрозненне асобных граматычных форм і канструкцый, для параўнання выкарыстоўваў таксама прыклады з польскай, чэшскай і іншых моў. Таму работу Ужэвіча можна разглядаць і як першую спробу стварэння параўнальнай граматыкі.

Для нас «Граматыка» Ужэвіча каштоўная як першая спроба навуковага апісання літаратурна-пісьмовай мовы, якой карысталіся ў Вялікім княстве Літоўскім у канцы 16 — пачатку 17 ст. і якая ў аднолькавай меры была спадчынай беларусаў і ўкраінцаў. У гэтай мове спалучаліся народна-гутарковыя і традыцыйныя кніжныя рысы, адчуваўся ўплыў царкоўнаславянскай і польскай моў.

У правапісе Ужэвіч зафіксаваў найбольш адметныя асаблівасці старабеларускага пісьма, якія адлюстроўвалі спецыфічныя фанетычныя працэсы ў народна-гутарковай мове. Ён не адрозніваў на пісьме літары *ѣ* і *е*, што сведчыла аб супадзенні гукаў *ѣ* і *е* ў адным гуку *э: ѣ(е)сти, ѣ(е)хати, рѣ(е)кою;* адлюстроўваў працэс зацвярдзення губных у канцы слоў: *бровъ, кровъ, осмъ, збавъ*; значэнне варыянтнай нормы мелі напісанне зацвярдзелых шыпячых, *ц, р: ежъ, варачый, мочъ, глубшый, ушы, купцы, лекцыю, веру, зверъ, крычу.* У гэтых адносінах «Граматыка» Ужэвіча зблізілася з нормамі старабеларускага дзелавога пісьменства, якое арыентавалася на перадачу асноўных фанетычных асаблівасцей жывой мовы. Шырока перададзены Ужэвічам і разнастайныя асімілятыўна-дысімілятыўныя працэсы: *зверху, оддалилъ, одмовил, ежджу, што, хтось.* Да спецыфічных беларускіх рысаў адносіцца напісанне прыстаўнога *і* ў лексеме *ірце*, спалучэння *зн* замест *здн* у *позно, празную* і інш.

Глыбокую навуковую эрудыцыю і пачуццё высокай адказнасці даследчыка Ужэвіч праявіў пры апісанні граматычнай будовы старабеларускай мовы. Як і помнікі старабеларускага пісьменства 16—17 ст., «Граматыка» Ужэвіча пры афармленні роднага склону неадушаўлёных абстрактных назоўнікаў мужчынскага роду прапанавала канчатак *-у: голосу, кошту, миру, розуму.* Новыя формы гэтых жа назоўнікаў зафіксаваны ў месным склоне: *при богу, в мешку, в Парыжу.* З іншых асаблівасцей можна адзначыць ужыванне словаформ з канчаткамі *-ами(-ями), -ахъ(-яхъ)* адпаведна для творнага і меснага склонаў множнага ліку: *каменями, панами, лазнями; въ соболяхъ, о панахъ, о телятках*ъ. Характэрнымі для белярус-




**«Граматыка славенская» І. Ужэвіча (тытульны ліст рукапісу). 1643. Старонка рукапісу.**

кай мовы марфалагічнымі паказчыкамі вызначалася і сістэма прыметніка, напрыклад канчаткамі *-ого* для мужчынскага роду і *-ое* для жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку *(вдячного, турецкого, святое)*, суфіксамі *-ш-*, *-ейш-* і прыстаўкай *най-* для ўтварэння форм ступеней параўнання *(лепший, найлепший; смачнейший, найсмачнейший)*.

Па сутнасці ўпершыню Ужэвіч даў трохчленную класіфікацыю часавых форм дзеяслова (цяперашні, будучы, прошлы), што адпавядала рэальнаму стану мовы. Былі адкінуты архаічныя аорыст і імперфект, якія страцілі сваю прадуктыўнасць у жывой мове. Услед за Сматрыцкім Ужэвіч па-навуковаму растлумачыў паходжанне дзеепрыслоўяў, разглядзеўшы іх як састаўную частку дзеяслоўнай структуры. Прычым ён апісаў спецыфічныя для беларускай мовы ўтварэнні з суфіксамі *-ачи(-ячи)*, *-учи(-ючи)*, *-в(-ши)*: *варачи, едячи, будучи, панунючи, писавши*. У «Граматыцы» Ужэвіча зафіксаваны характэрныя для тагачаснага пісьменства словаформы дзеясловаў, якія ярка адлюстроўваюць узаемадзеянне пісьмовай мовы з народнай і складаюць норму сучаснай літаратурнай мовы: *гребешь, бежишь, належить, сядь, бачь, нехай варить, нехай куе*. Такім чынам, І. Ужэвіч адлюстраваў у граматычна-правапіснай сістэме працэс станаўлення марфалагічных норм старабеларускай літаратурнай мовы.

Даследчык аддаў значную ўвагу апісанню сінтаксічных асаблівасцей народнай мовы, у прыватнасці параўнальных прыметнікавых канструкцый *(слонце яснейшое месеца, аристотелес з мудрых наймудрейший)*, інфінітыўных і дзеепрыслоўных словазлучэнняў *(пристоить цнотливе жити, ён упившыся пошол спати)*. У «Граматыцы» прадстаўлена даволі значная колькасць слоў, якія былі прадуктыўнымі ў беларускім пісьменстве тых часоў і з пэўнымі фанетычна-арфаграфічнымі зменамі ўвайшлі ў лексічны склад сучаснай беларускай мовы: *бодай, бубенъ, будовничій, вдячный, по вечери, вязень, година, господыня, додому, жартуючи, забойца, завжды, кветки, лыжка, мати* і *матка, подобный, порося, поки, потай, скарбы, терти, умерти, хрыбет, хлопецъ, цнота, черга, штось, ящорка* і інш. У лексічным складзе «Граматыкі» Ужэвіча як найлепш адлюстраваны працэс фарміравання слоўніка беларускай літаратурнай мовы на пэўным гістарычным этапе яе развіцця. У слоўнікавым, як і ў граматычным, складзе «Граматыка» Ужэвіча адлюстравала характэрны для таго часу працэс узаемаўплыву і ўзаемаўзбагачэння беларускай і польскай моў.

Акрамя «Граматыкі», пяру І. Ужэвіча належыць некалькі вершаваных панегірыкаў, з якіх відаць, што ён добра валодаў тэхнікай вершаскладання. У «Epigramma ad Librum», змешчанай ў парыжскім аўтографе «Граматыкі» і напісанай лацінскай мовай, аўтар выказвае свае пачуцці да роднага краю, падкрэслівае значнасць выкананай работы. З годнасцю ён піша:

У роднай краіне, о кніга, такой ты ніколі не знана,
Мову славянскую ты месціш у сховах сваіх.



**І. Ужэвіч. «Граматыка славенская» (тытульны ліст). 1970.**

Усё, зробленае Ужэвічам, дае падставы сцвярджаць, што яго імя павінна стаяць побач з імёнамі такіх выдатных дзеячаў эпохі беларускага Адраджэння, як Ф. Скарына, Л. Зізаній, М. Сматрыцкі, В. Цяпінскі, С. Будны.

*Літ.:* Білодід І. К., Кудрицький Е. М. Іван Ужевич і його граматика // Граматика слов'янська І. Ужевича. Київ, 1970; Белодед И. К. «Славянская грамматика» Ивана Ужевича 1643 г. // Изв. АН СССР. Сер. лит. и языка 1972. Т. 31, вып. 1; Булахаў М. Г. «Граматика слов'янська» І. Ужэвіча // Весн. БДУ. Сер. 4. 1971. № 2; Dingley J. The Two Versions of the Gramatyka Slovenskaja of Ivan Uževič // The Journal of Byelorussian Studies. London, 1972. Vol. 2, № 4; Мечковская Н. Б. Ранние восточнославянские грамматики. Мн., 1984; Яскевіч А. З кагорты пачынальнікаў // Полымя. 1988. № 3.

*Дз. Дз. Паўлавец.*

## ГРАФІКА-АРФАГРАФІЧНЫЯ І ГРАМАТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ ПАЧАТКУ 20 СТАГОДДЗЯ

Першыя спробы выдання кніг на беларускай мове былі зроблены ў 1830—40-я гады пасля працяглага, амаль на паўтара стагоддзя, перапынку, калі беларуская мова існавала толькі ў вусна-дыялектнай форме. Спачатку гэта былі фальклорныя і этнаграфічныя публікацыі (Я. Чачот, А. Рыпінскі), пазней — «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага, творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча і інш. Значнае пашырэнне гэта справа набыла ў пачатку 20 ст. ў сувязі з уздымам нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі, што вымусіла царскія ўлады адмовіцца ад забароны ўжываць «мясцовыя мовы ў Заходнім краі», і гэта спрыяла заснаванню беларускіх выдавецтваў і рэдакцый. Так, у 1906 г. ў Пецярбургу было заснавана выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца», у Вільні працавала выдавецтва «Нашай нівы», у 1908 г. заснавана выдавецтва «Наша хата», у 1910-я гады — «Палачанін», у 1913 г.— «Беларускае выдавецкае таварыства» і інш. У 1906 г. пачала выдавацца ў Вільні першая беларуская легальная газета «Наша доля» (неўзабаве яе выданне было спынена), з лістапада 1906 г. пачала выходзіць газета «Наша ніва», якая адыграла асабліва вялікую ролю ў станаўленні і развіцці беларускай літаратурнай мовы. На працягу першых пятнаццаці гадоў 20 ст. выдаваліся беларускія часопісы і газеты рознага зместу (сельскагаспадарчыя, дзіцячыя, рэлігійныя), календары, альманахі, зборнікі твораў Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча, У. Галубка, А. Паўловіча і інш. Стварэнне на беларускай мове тэкстаў публіцыстычнай, навукова-папулярнай, навукова-педагагічнай, рэлігійна-павучальнай, мастацкай літаратуры вяло за сабою зараджэнне і фарміраванне розных функцыянальных стыляў новай беларускай літаратурнай мовы.

Станаўленне нашай новай літаратурнай мовы адбывалася на аснове двух алфавітаў — кірылічнага і лацінскага (польскай мадыфікацыі), што было абумоўлена тагачаснай культурна-гістарычнай сітуацыяй. З канца 17 ст. на тэрыторыі этнічнай Беларусі, якая ў гэты час уваходзіла ў склад Польскай дзяржавы, афіцыйнай мовай і мовай навукі і культуры была польская мова. Калі беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі, гэтыя функцыі перайшлі да рускай мовы. Таму пісьмовая форма беларускай літаратурнай мовы з самага пачатку і на працягу доўгага часу аказалася звязанай з ужываннем дзвюх графічных сістэм, і толькі ў канцы першага дзесяцігоддзя 20 ст. выкарыстанне лацінкі было крыху абмежавана. Газета «Наша ніва» доўгі час друкавалася двума алфавітамі, але ў 1912 г. пасля абмеркавання з чытачамі пытанне пераходу на адзін алфавіт было вырашана на карысць «грамадзянкі» (кірылічнага алфавіта). Двума алфавітамі друкаваліся ў час рэвалюцыі 1905—07 гг. праклама-

цыі. Лацінкай былі выдадзены зборнікі вершаў Цёткі «Скрыпка беларуская» і «Гусляр» Я. Купалы, друкаваліся тыднёвая газета рэлігійнага зместу «Беларус», гутаркі на сельскагаспадарчыя тэмы. На аснове кірылічнага алфавіту выдаваліся ў большасці выпадкаў творы мастацкай літаратуры, арыгінальнай і перакладной.

І кірыліца, і лацінка польскай мадыфікацыі, якія выкарыстоўваліся ў беларускіх выданнях пачатку 20 ст., мелі ў сваім складзе асобныя знакі, уведзеныя для таго, каб прыстасаваць гэтыя алфавіты для найлепшай перадачы фанетычных асаблівасцей беларускай мовы. Так, у лацінскі алфавіт беларускіх выданняў уводзіліся наступныя знакі: *ŭ* для перадачы [у] нескладовага на месцы [л], [в] пасля галосных; чэшскія літары *č*, *š* замест польскіх дыграфаў *cz*, *sz* для абазначэння [ч], [ш]. Кірылічны алфавіт беларускіх выданняў таксама меў некаторыя асаблівасці ў складзе літар: з яго былі выключаны літары *ѣ*, *щ*, *и*, *ъ*; былі ўведзены знакі *ў* для абазначэння [у] нескладовага, *ґ* для абазначэння [г] выбухнога, дыграфы *дз*, *дж* для абазначэння [д'] і злітнага гука [дж], спецыфічнага для беларускай мовы, знак ' (апостраф) у якасці раздзяляльнага замест знака *ъ*. Асаблівае спалучэнне гукаў [шч] стала абазначацца праз спалучэнне адпаведных літар *шч*. Гэтыя рысы кірылічнага і лацінскага алфавітаў беларускіх выданняў складваліся паступова, на працягу папярэдняга перыяду беларускага кнігадрукавання — у 2-й палове 19 ст. У пачатку 20 ст. яны выявіліся ўжо дастаткова выразна, але не набылі значэння нормы. Ужыванне той або іншай сукупнасці кірылічных і лацінскіх літар у значнай ступені залежала ад магчымасцей друкарні.

Алфавіты прыстасоўваліся да перадачы фанетычных асаблівасцей беларускай мовы не толькі шляхам увядзення асобных знакаў, але і пры дапамозе спецыяльных графічных прыёмаў, што ў першую чаргу датычылася кірылічнага пісьма. Так, для абазначэння гука [о] з папярэдняй мяккасцю зычнага прапанаваліся дыграфы *іо*, *йо*: *усіо*, *вйоски* (у адпаведнасці з графічным прынцыпам абазначэння мяккасці папярэдняга зычнага ў польскай графіцы). Але з пачатку 20 ст. ў гэтай функцыі пераважае ўжыванне літары *ё*, што адпавядала графічнаму прыёму кірылічнага алфавіта — абазначэння мяккасці папярэдняга зычнага праз галосныя *е*, *и*, *ю*, *я*. Рэалізацыяй гэтага ж графічнага прыёму было паступовае замацаванне напісання літар *о*, *э*, *ы* пасля літар *р*, *ж*, *ш*, *ч*, *ц*, якія абазначалі цвёрдыя зычныя беларускай мовы: *лягчэй*, *грошы*, *грыбы*, *жыць*. Але такія напісанні былі яшчэ непаслядоўныя і не склалі адзінай пісьмовай нормы. У гэты ж перыяд замацоўваецца абазначэнне мяккага [т'] праз літару *ц*: *маци*, *пцица*. Падоўжаныя зычныя на месцы новых спалучэнняў зычных з ётам абазначаліся шляхам падвоенага напісання зычных літар: *жыццё*, *раздольля*. Перадача на пісьме асімілятыўнага змякчэння зычнага ў такім спалучэнні, а таксама перад мяккім зычным замацавалася не адразу, і напісанне знака пасля зычнай у кірылічных выданнях або абазначэнне мяккасці зычнага пры дапамозе надрадковых значкоў у польскім алфавіце адлюстроўваецца непаслядоўна: *аббіненьне*, *баязьліва*, *letańńie*, *прайсці*, *роўнасць*, *iści*. З рэалізацыяй фанетычнага прынцыпу ў напісанні галосных звязаны арфаграфічныя асаблівасці беларускай літаратурнай мовы пачатку 20 ст. Так, назіраецца шырокае адлюстраванне на пісьме акання: *вада*, *цяжка*, *горад*, *дзетак*, *галаскамі*. Але ёсць і адступленні ад гэтага правіла ў пазіцыі канцавога адкрытага складу: *добраго*, *жыто*, *згарэло*, *цяпер-то пазналі* і інш., што магло быць вынікам уплыву гаворак з умераным аканнем. Адступленні таксама назіраюцца ў словах пэўных граматычных катэгорый (у залежнасці ад месца выдання). У выданнях «Нашай нівы» перадача на пісьме не ахоплівае канчаткі назоўнікаў роднага склону множнага ліку: *паэтоў*, *сходоў*. Даволі паслядоўна захоўвалася абазначэнне ненаціскнога [э] пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных: *вечар*, *дужэ*, *морэ* і інш.

У пачатку 20 ст. складваецца правіла пісьмовай перадачы якання. Напісанне *я* назіраецца толькі ў першым пераднаціскным складзе, калі пад націскам пішацца не *а*: *бяз глебы*, *вядомы*, у астатніх выпадках у пераднаціскных і паслянаціскных складах яканне на пісьме не перадаецца: *без народу*, *селяніна*, *усё зазелянела*, *над краем*, *поле*.

Правапіс зычных ужо ў гэты перыяд грунтуецца на аснове марфалагічнага прынцыпу: *абкідаць*, *бязспорна*, *барацьба*, *пераплётчык* і інш. Праўда, назіраюцца і адступленні ад гэтага прынцыпу ў напісанні *т* на месцы [д] перад наступным глухім зычным: *атказ*, *патпіска*, *патходзіў*; у напісанні слоў з суфіксамі *-ств-* і *-ск-*: *таварыства*, *выдавецтва*, *брацкі*, што адпавядала іх вымаўленню. Арфаграфічнай асаблівасцю беларускіх выданняў, не звязанай ні з фанетычным, ні з марфалагічным прынцыпам, з'яўляецца перадача суфіксаў *-ств-* і *-ск-* у спалучэнні з асновамі на [д] праз *-дзтв-*, *-дзк-*: *лугаводзтва*, *грамадзкі*.

Асабліва цяжкімі для пісьмовай перадачы былі запазычаныя словы, якія займалі прыкметнае месца ў лексічным складзе новай беларускай літаратурнай мовы. У гэты час ужо выкрышталізоўвалася тэндэнцыя захоўваць напісанне *о* не пад націскам у запазычаных словах, асабовых і геаграфічных назвах: *ботаніка*, *Бородзіно*, *Копэрнік*, хоць у словах, якія сталі звычайнымі для беларускага пісьменства, аканне на пісьме перадавалася: *працэнт*, *аграном*, *палітыка*. Пэўнымі тэндэнцыямі вызначаецца і правапіс зычных у запазычаных словах: пераважае захаванне падвоеных зычных (*группа*, *сумма*, *масса*), перадача цвёрдасці зычных перад галоснымі пярэдняга рада (*акадэмія*, *практык*, *маніфэст*, *сыстэма*, *газэта*), перадача мяккасці [л] (*калёнія*, *філёзаф*, *парлямэнт*), захаванне напісання суфікса *-цыя* (*агітацыя*, *нацыя*, *сыгналізацыя*; адступленні сустракаюцца рэдка: *рэвалюцыя*).

Арфаграфічныя рысы беларускай літаратурнай мовы гэтага часу (за выключэннем правапісу запазычаных слоў) складваліся як вынік адлюстравання на пісьме найбольш прыкметных фанетычных рыс асноўных масіваў беларускіх гаворак — паўночна-ўсходніх і паўднёва-заходніх. Гэтыя ж прычыны выклікалі значную граматычную неўнармаванасць літаратурнай мовы, калі перавагу на пісьме атрымлівалі, як правіла, з'явы, якія мелі большае пашырэнне.

У сістэме іменнага скланення назоўнікаў варыянтнасць закранала некаторыя формы. Канчаткі назоўнікаў мужчынскага роду ў назоўным склоне множнага ліку *-ы*, *-і* (*апекуны*, *краі*) назіраюцца побач з больш рэдкім канчаткам *-э* пад націскам (*авадне*, *паслэ*, *сляпцэ*). У форме меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду з асновай на мяккі і зацвярдзелы пераважаюць канчаткі *-ы*, *-і* (*у канцы*, *у сталецці*), але сустракаюцца і канчаткі *-у*, *-ю* (*на пляцу*, *у жыццю*). Назоўнікі жаночага і ніякага роду ў форме роднага склону множнага ліку пераважна маюць нулявы канчатак (*верб*, *мейсц*, *воен*, *сосан*), але таксама добра вядомы канчаткі *-оў*, *-аў* (*ягадаў*, *губернёў*, *вазёраў*). У формах давальнага і меснага склонаў множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду пад націскам усталяваліся канчаткі *-ом(-ём)*, *-ох(-ёх)*, а не пад націскам *-ам(-ям)*, *-ах(-ях)*: *братом*, *князём*, *баярам*, *па краёх*, *у снох*, *на сэймах*. Але побач з імі адзначаюцца і такія формы, як *жыхарам*, *мужыкам*, *у гаях*, *лугах*. Граматычная неўнармаванасць выяўляецца ў паралельным ужыванні рознадыялектных — скарочаных і поўных — канчаткаў творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў жаночага роду *-ой(-ей)*, *-ай(-яй)* і *-ою(-ёю)*, *-аю(-яю)*: *гразёй*, *магутной сьценой* і *гэтаю глебаю*, *пад ёю*, *высокаю асакою*, аднак пры колькаснай перавазе скарочаных форм.

Пад дыялектным уплывам мова беларускіх выданняў пачатку 20 ст. адметная варыянтнасцю канчаткаў дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга і будучага простага часу

*-ець(-эць), -ыць, -іць* і *-е(-э): выдаець, хочэць, засвеціць, поіць* і *дае, раскажэ, купе, малоце.* Характэрнай для гэтага часу з'яўляецца варыянтнасць дзеяслоўных канчаткаў 1-й асобы множнага ліку *-ем, -ім(-ым)* і *-емо, -імо* (з перавагай першых): *думаем, прыпомнім, жывем* і *глядзімо, не дамо.* Тое ж датычыць варыянтаў канчаткаў 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу *-іце(-ыце)* і *-эце(-еце): напішыце, плаціце,* радзей — *пішэця, адчынеця.*

Адзначаныя асаблівасці сведчаць, што ў гэты перыяд толькі разгортваўся працэс выпрацоўкі норм літаратурнай мовы. Адсутнасць грунтоўна распрацаваных падручнікаў беларускай мовы і наогул самой практыкі школьнага навучання беларускай мове вельмі ўскладнялі задачы нармалізацыі літаратурнай мовы. Шырокая варыянтнасць мовы беларускіх выданняў пачатку 20 ст. адлюстравала станаўленне літаратурных норм шляхам канкурэнцыі розныдыялектных моўных адзінак. Пэўным вынікам гэтага этапу з'явілася «Беларуская граматыка для школ» Б. А. Тарашкевіча (гл. **«Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча**), якая замацавала як нарматыўныя найбольш пашыраныя і вядомыя рысы мовы беларускіх выданняў пачатку 20 ст.

*Літ.:* Булахаў М. Г. Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў XIX—XX стст. ва ўзаемаадносінах з іншымі славянскімі мовамі. Мн., 1958; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984; Яновіч А. І. Станаўленне графічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы новага перыяду // Бел. лінгвістыка. 1987. Вып. 31. *А. І. Яновіч.*

## ГРУЦА АЛЯКСЕЙ ПЯТРОВІЧ



Нарадзіўся А. П. Груца 9 мая 1924 г. ў в. Пішчыкі Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. У 1951 г. скончыў Мінскі педінстытут. Доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971). Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школах Мінска. З 1957 г. навуковы супрацоўнік сектараў лексікалогіі і лексікаграфіі; дыялекталогіі, гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН Беларусі. З 1969 г. на кафедры гісторыі рускай мовы, з 1972 г. загадчык кафедры рускай мовы, з 1982 г. прафесар (у 1990—91 загадчык) кафедры агульнага і рускага мовазнаўства Мінскага педінстытута.

Даследуе беларускую дыялекталогію, гістарычную граматыку і лексікалогію рускай і беларускай моў, лексіку Я. Коласа. Аўтар артыкулаў па гісторыі складаных форм будучага часу дзеясловаў, пра развіццё складаназалежнага сказа ў беларускай мове. У манаграфіі «Развіццё складаназалежнага сказа ў беларускай мове» (1970) на матэрыяле помнікаў пісьменства 14—18 ст., фальклорных твораў і народных гаворак глыбока прааналізаваў складванне і развіццё ў беларускай мове складаназалежных сказаў з рознымі даданымі часткамі — дзейнікавымі, выказнікавымі, дапаўняльнымі, азначальнымі, акалічнаснымі, параўнальнымі і ўступальнымі. Асаблівую ўвагу звярнуў на сродкі сувязі даданых частак з галоўнай — падпарадкавальныя злучнікі, злучальныя словы, трывальна-часавыя формы дзеясловаў-выказнікаў у прэдыкатыўных частках, семантыка-граматычныя адносіны паміж імі.

А. П. Груца — адзін са складальнікаў «Беларуска-рускага слоўніка» (1962), «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (вып. 1—11, 1982—91). Апублікаваў шэраг артыкулаў па гісторыі аднакарэнных слоў у беларускай і рускай мовах. Як сааўтару акадэмічных прац «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69) разам з іншымі даследчыкамі ў 1971 г. яму прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

*Тв.:* Гісторыя будучага складанага першага ў беларускай мове // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1957. № 4; Будучы складаны II у беларускай мове // Тамсама. 1958. № 1; Аб некаторых сельскагаспадарчых назвах у беларускіх народных гаворках // Тамсама. 1961. № 4; Будучы просты час у мове беларускай пісьменнасці XIV—XVII стст. // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1960. Вып. 7; Да пытання аб уплыве беларускай мовы на рускую ў перыяд складвання іх як моў народнасцей // Зб. навук. прац Мінскага пед. ін-та. Т. 5. Філалогія. Мн., 1973. Вып. 1; Некаторыя асаблівасці семантыкі і структуры фразеалагізмаў у беларускай і рускай мовах: На матэрыяле помнікаў пісьменнасці XIV—XVII стст. // Бел. лінгвістыка. Мн., 1986. Вып. 29; Пра лёс некаторых лексічных запазычанняў беларускай мовы // Тамсама. 1987. Вып. 32; Лексічнае гняздо з дзеясловам *ошукати* ў якасці апорнага слова ва ўсходнеславянскіх мовах // Весн. БДУ. Сер. 4. 1988. № 3. *І. К. Германовіч.*

## ГРЫГАРОВІЧ ІВАН ІВАНАВІЧ



Гісторык, археограф і мовазнавец І. І. Грыгаровіч нарадзіўся 26 жніўня 1792 г. ў Слаўгарадзе Магілёўскай вобласці. У 1811 г. скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю, у 1819 г.— Пецярбургскую духоўную акадэмію. Выкладаў грэчаскую і лацінскую мовы ў Магілёўскім духоўным вучылішчы (1811—15). З 1819 г. протаіерэй, у 1820—29 гг. рэктар павятовага і прыходскага вучылішчаў у Гомелі, з 1829 г. рэктар духоўных вучылішчаў у Віцебску, з 1831 г.— у Пецярбургу. Член (з 1837 г.) і галоўны рэдактар (з 1839 г.) Археаграфічнай камісіі. Памёр 13 лістапада 1852 г.

І. І. Грыгаровіч даследаваў гісторыю царквы. Плённым у яго навуковай дзейнасці быў гомельскі перыяд, калі ён вывучаў зборы гістарычных матэрыялаў Магілёўскага, Мсціслаўскага і Аршанскага архіваў, зацікавіўся беларускай гісторыяй і славеснасцю. У Гомелі ён падрыхтаваў рукапіс першага археаграфічнага зборніка па гісторыі беларускіх зямель «Беларускі архіў старажытных грамат», выдадзены ў Маскве ў 1824 г. на сродкі і з дапамогай графа М. П. Румянцава. Выданне планавалася ў 3 частках, выйшла толькі 1-я. Зборнік мае выразны рэгіянальны характар — усе 57 старажытных актаў у ім датычацца Магілёва і размешчаных вакол яго населеных пунктаў і ўрочышчаў 15—18 ст. Шэраг з іх надрукаваны паралельна на беларускай і польскай мовах, асобныя граматы — на

лацінскай мове і ў перакладзе на рускую мову. 66 дакументаў 2-й часткі (рукапіс у Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі) належаць да 1252—1707 гг. Як піша ў прадмове да гэтай часткі аўтар, адны дакументы яе «захоўваюць адбітак старажытнай беларускай мовы, другія цікавыя сваім мясцовым характарам, у іншых захаваліся ад канчатковага забыцця славутыя асобы і памяць заслуг іх». У архіўных паперах І. І. Грыгаровіча ёсць рукапісы двух слоўнікаў беларускай мовы, якія ён склаў у Гомелі (як ён лічыў — не толькі для лепшага разумення чытачом гістарычных актаў на беларускай мове, але і таму, што «слоўнік ёсць летапіс мовы, і ў гэты летапіс павінны быць унесены ўсе факты, якія былі і ёсць»). Адзін — «Збор слоў літоўска-рускай (беларускай) гаворкі». Рукапіс другога, складзенага ім у 1850—51 гг., але не выдадзенага «Слоўніка заходнярускай гаворкі» (літары А, Б, В), ахоплівае 4259 слоў, выбраных з помнікаў старажытнага пісьменства, а таксама запісаных з тагачаснай жывой народнай мовы. Словы падаюцца з націскамі, суправаджаюцца граматычнымі і стылістычнымі паметамі, дакладнымі тлумачэннямі ўсіх сэнсавых адценняў, падмацоўваюцца вытрымкамі з помнікаў, запісамі вуснай мовы, прыказкамі, прымаўкамі, загадкамі, фрагментамі песень. Слоўнік каштоўны як першая спроба сабраць лексічнае багацце беларускай мовы, сістэматызаваць яго і ўвесці ў навуковы абыход.

Пецярбургскі перыяд у жыцці Грыгаровіча быў самым плённым. У 1835 г. ён выдаў збор твораў Георгія Каніскага, украінскага і беларускага пісьменніка і культурнага дзеяча 17—18 ст., з апісаннем яго жыцця. Апафеозам дзейнасці Грыгаровіча стала выданне «Актаў, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» (т. 1—5, 1846—53) — каля 2 тысяч дакументаў па палітычнай гісторыі Беларусі, Украіны і Літвы 1340—1699 гг. Шмат дакументаў надрукавана ў іх на беларускай мове.

*Літ.:* Ватацы Н. Ці друкаваўся «Слоўнік...» І. Грыгаровіча? // ЛіМ. 1969. 28 кастр.; Улашчык Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Гуліцкі М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст). Мн., 1978; Цярохін С. Ён праклаў першую баразну // Голас Радзімы. 1987. 17 снеж. *М. Ф. Гуліцкі.*

## ГРЭЧАСКАЯ МОВА

Грэчаская мова — адна са старажытных моў індаеўрапейскай сям'і. Дзяржаўная мова Грэцыі і (разам з турэцкай) Кіпра. Ёй карыстаюцца таксама грэкі ў Турцыі, Албаніі, Італіі, ЗША і іншых краінах.

У ранні перыяд свайго развіцця (20—4 ст. да н. э.) існавала ў выглядзе дыялектаў, паступова набываючы і пісьмовую форму. Першапачаткова грэкі карысталіся складовым пісьмом, а з 8 ст. да н. э. перайшлі на літарнае. Запазычыўшы алфавіт разам з назвамі асобных літар у фінікійцаў, яны прыстасавалі яго для абазначэння спецыфічна грэчаскіх гукаў, сталі пісаць злева направа. На эалійскім дыялекце дайшлі да нас творы Сапфо і Алкея, на дарыйскім — Алкмена, Эпіхарма, Сафрона, Філалея, матэматыка Архімеда, на іанійскім — Гамера, гісторыка Герадота і ўрача Гіпакрата. Найбольш поўнай літаратурнай апрацоўкай вызначаецца атычны дыялект, на якім напісаны творы такіх прадстаўнікоў старажытнагрэчаскай літаратуры, як Фукідзід, Ксенафонт, Платон, Дэмасфен, Эсхіл, Сафокл, Эўрыпід, Арыстафан. Відаць, таму гэты дыялект у 3 ст. да н. э. меў прыярытэтнае значэнне пры складванні агульнага для ўсяго элінскага свету старажытнагрэчаскага моўнага кайнэ, што, як і раннія дыялекты, мела кароткія і доўгія галосныя гукі, асобы рад прыдыхальных зычных, музычны націск, у марфалогіі — развітую сістэму дзеяслоўных форм, крыху спрошчанае іменнае скланенне, развітое словаўтварэнне. У 4 ст. гэта кайнэ лягло ў аснову літаратурнай мовы Візантыйскай імперыі.

З цягам часу старажытнагрэчаская мова пачала змяняцца ў вуснах народа, успрымаючы вялікую колькасць дыялектных і запазычаных з іншых моў элементаў і трацячы ранейшыя значэнні слоў, парушаючы граматычныя формы, выпрацоўваючы новыя сінтаксічныя канструкцыі. Асабліва прыкметна гэтыя моўныя пераўтварэнні праявіліся ў літаратурных і рэлігійных творах візантыйскіх аўтараў пасля захопу Канстанцінопаля ў 1204 г. ўдзельнікамі чацвёртага крыжовага паходу, у выніку якога пахіснулася магутнасць Візантыі. Да часу канчатковага разгрому грэчаскай дзяржавы туркамі (сярэдзіна 15 ст.) завяршыўся працэс станаўлення на народнай аснове важнейшых асаблівасцей новагрэчаскай мовы, што працякаў у кірунку звужэння галосных, манафтангізацыі дыфтонгаў, ператварэння прыдыхальных зычных у спіранты, замены музычнага націску сілавым, спрашчэння сістэмы скланення, замены многіх сінтаксічных форм аналітычнымі канструкцыямі. Навагрэчаская мова ў яе сучаснай форме якраз і базіруецца на гэтых народных рысах. У той жа час яна карыстаецца старажытнагрэчаскім алфавітам, як і старажытнагрэчаская, абапіраецца на шэраг гаворак (напрыклад, пантыйскія, крыцкія, кіпрскія, цаконскія). Існуе ў гутарковай і пісьмовай (пераважна ў сферы мастацкай літаратуры) формах. Для афіцыйных тэм, школьнай адукацыі і навуковага ўжытку выкарыстоўваецца малазразумелая народу так званая «чыстая» мова, якая штучна набліжана да старажытнагрэчаскай. Наяўнасць гэтых двух варыянтаў мовы стварае для грэкаў пэўныя цяжкасці ў моўнай практыцы.

Грэчаская мова, як і другая класічная мова — лацінская (гл. **Лацінская мова**), на працягу стагоддзяў была важным элементам школьнай і універсітэцкай адукацыі ў краінах Еўропы і зрабіла вялікі ўплыў на фарміраванне многіх моў. Непасрэдна і праз лацінскую мову, дзе даследчыкі налічваюць каля 7000 слоў грэчаскага паходжання, яна перадала еўрапейскім мовам вялікую колькасць лексічных адзінак. Нямала грэчаскіх слоў пранікала ў старажытнасці і на Русь, узбагачаючы мову продкаў рускіх, беларусаў і ўкраінцаў дакладнымі сродкамі выражэння. Асабліва прыкметна грэчаская мова ўплывала на развіццё старажытнарускай тэрміналогіі і матэрыяльнай культуры, мастацтва, рэлігійнага жыцця. Многія запазычаныя з яе на працягу 10—14 ст. словы (*аксамитъ, ароматъ, грамота, демонъ, ересь, идолъ, икона, кедръ, китъ, ладанъ, палата, парусъ*) ужываюцца ва ўсходнеславянскіх мовах і зараз.

Здаўна была вядома грэчаская мова і на тэрыторыі Беларусі, дзякуючы знаёмству адукаваных прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства з грэчаскай рэлігійнай літаратурай. У 16—17 ст. вывучэнне грэчаскай мовы займала адно з вядучых месцаў у многіх беларускіх гарадскіх брацкіх школах. Абавязковасць уключэння яе ў праграму навучання падкрэслівалася ўжо ў каралеўскіх прывілейных граматах на адкрыццё брацкіх школ, пра што сведчыць, напрыклад, грамата караля Зыгмунда III брэсцкаму царкоўнаму брацтву: «...А для науки детей народу христіанского всякого стану ку оздобе и пожитку Речи Посполитое позволяемъ имъ имети школу греческого, латинского, польского и руского (г. зн. беларускага.— *А. Б.*) языка и людей учоныхъ в тыхъ школахъ волно ховати духовного и свецкого стану...» (1592). Добра ведаць грэчаскую мову лічылі сваім абавязкам дзяржаўныя і рэлігійныя дзеячы праваслаўнай арыентацыі, таму бралі ў якасці рэпетытараў прыватных настаўнікаў. Пра гэта сведчыць, між іншым, запіс з вядомага Баркулабаўскага летапісу канца 16— пачатку 17 ст.: «Року 1597 во великий постъ его милость князь Богданъ именемъ Исакий у месте Баркулабове почалъ учитися по руску грамоте и по грецку, а былъ бакаларемъ панъ Лаврентий Зизаний, человекъ навченый з места Виленского».

Грэчаскай мовай добра валодалі Ф. Скарына, С. Будны, Л. Зізаній і многія іншыя адукаваныя людзі, якія маглі карыстацца арыгіналамі. На Беларусі шырылася колькасць перакладаў з грэчаскай мовы на бе-

ларускую, больш значныя з якіх даходзілі да чытача ў друкаваным выглядзе, як папулярныя ў 17 ст. рэлігійныя творы «Евангелле вучыцельнае» (Еўе, 1616), «Бяседы Макарыя» (Вільня, 1627), «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа» (Куцейна, 1637). Звычайным было таксама выкарыстанне ў беларускіх тэкстах грэчаскіх прыказак і афарызмаў, прычым часта ў арыгінальным грэчаскім афармленні, ужыванне грэчаскіх слоў у загалоўках твораў рэлігійнай і палемічнай літаратуры, якія выдаваліся на беларускай і царкоўнаславянскай мовах *(апокрисисъ, альбо отповедь; гармония, альбо согласие веры; диоптра, альбо зерцало; трефологионъ, или цветословъ; евхологионъ, или требникъ)*, замена славянскіх прозвішчаў грэчаскімі адпаведнікамі *(Зізаній-куколь, Філялетпраўдалюбец)*. Усё гэта надавала пэўную афарбоўку тагачаснай беларускай літаратурна-пісьмовай мове, садзейнічала замацаванню ў ёй грэчаскіх элементаў, найперш у лексічным складзе. Менавіта з таго часу беларуская мова ведае грэцызмы *алегорыя, арыфметыка, астраномія, геаметрыя, граматыка, догма, дыялог, камедыя, космас, муза, стыхія, хаос* і інш.

З канца 17 ст. папулярнасць грэчаскай мовы на Беларусі ў сувязі з паланізацыяй грамадскага жыцця ўсё больш змяншалася. Асобныя грэцызмы працягвалі пранікаць у беларускую мову толькі праз лацінска-польскае пасрэдніцтва. У 20 ст., калі беларуская мова пачала абслугоўваць сферы навукі, асветы, культуры, а ў сувязі з гэтым узнікла патрэба ў разнастайнай навуковай тэрміналогіі, прыкметную ролю ў яе развіцці набылі інтэрнацыяналізмы грэчаскага паходжання. Засвоеныя многімі народамі з мовы старажытных грэкаў у гатовым выглядзе або ўтвораныя на аснове грэчаскіх моўных элементаў (каранёў, суфіксаў, прэфіксаў), гэтыя міжнародныя словы, трапляючы ў беларускую мову, калькуюцца і ўваходзяць у яе актыўны слоўнікавы запас. Тэрміны, звязаныя сваім паходжаннем з грэчаскай мовай, шырока выкарыстоўваюцца ў сучаснай медыцыне *(гігіена, дыета, клініка, хірург, эпідэмія)*, біялогіі *(біясфера, клімат, мікраскоп, нарцыс, экалогія)*, астраноміі *(апагей, астэроід, галактыка, перыгей, тэлескоп)*, хіміі *(ангідрыд, атам, гідрат, гідроліз, фосфар)*, матэматыцы *(гіпатэнуза, дыяганаль, дыяметр, трыганаметрыя, тэарэма)*, тэхніцы *(аўтамабіль, аўтаматыка, гідратэхніка, гідраўліка, тэхналогія)*, літаратуры і мастацтве *(сімфонія, талент, хор, эпіграф, эпітэт)*, грамадазнаўстве *(аўтаномія, дэмакратыя, дэмаграфія, манаполія, палітыка)*, у іншых прыродазнаўчых і грамадскіх навуках і галінах чалавечай дзейнасці. Грэчаскі лексічны і міфалагічны матэрыял ляжыць у аснове шэрага беларускіх афарызмаў, фразеалагізмаў і ўстойлівых словазлучэнняў *(альфа і амега, аўгіевы стайні, дамоклаў меч, канцы у Лету, праметэеў агонь)*. Папаўненне міжнароднай навуковай тэрміналогіі за кошт грэчаскіх моўных элементаў, несумненна, будзе працягвацца ў далейшым: стабільнасць семантыкі, адсутнасць стылістычнай экспрэсіўнасці, вялікія словаўтваральныя магчымасці робяць іх незаменным будаўнічым матэрыялам для новых тэрмінаў.

*Літ.:* Соболевский С. И. Древнегреческий язык. М., 1948; Древнегреческо-русский словарь / Сост. И. Х. Дворецкий. Т. 1—2. М., 1958; Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970; Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мн., 1980; Пятроўскі Ян. Класічны грэцка-беларускі слоўнік. Нанава апрацаваны. Ч. 1—2. Фларыда (ЗША), 1983—85.

*А. М. Булыка.*

## ГУКАПЕРАЙМАННІ

Асобныя гукі ці гукавыя комплексы, якія служаць для передачы характэрных выгукаў, шумаў, што ўтвараюцца прадметамі ці жывымі істотамі, называюцца гукаперайманнямі. Вядома, органы маўлення чалавека не прыстасаваны для таго, каб дакладна перадаваць шум ветру, шолах травы, усплёскі вады, грукат грому, гукі стрэлаў, брэх сабакі, спеў салаўя і інш. Напрыклад: *Шурхатала трава затоеным шэптам: «Ш-ш-ш... с-с-с...»* (З. Бядуля). Гукаперайманні толькі прыблізна перадаюць гэтыя гучанні, з'яўляючыся ўмоўнымі знакамі. Так, гукавы комплекс *ку-ка-рэ-ку!* наўрад ці можна лічыць дакладнай перадачай крыку пеўня. Каб гэты выгук быў сапраўды дакладнай копіяй крыку пеўня, то ў розных мовах гэта гукаперайманне павінна было б быць аднолькавым. Але французы перадаюць крык пеўня гукавым комплексам *кірыко-ко!*, армяне — *кук-лі-ку!*, англічане — *кок-э-дудль-ду!* і г. д. Нельга ж усур'ёз лічыць, што пеўні ў розных краінах крычаць на сваіх «дыялектах». З гэтага вынікае, што гукаперайманне — гэта прыблізная перадача рэальнага гучання.

Гукаперайманні пазбаўлены лексічнага значэння ў прывычным для нас сэнсе: кожнае з іх «значыць» толькі тое, якое гучанне яно імітуе. З гэтым звязана і аморфнасць гукаперайманняў. Многія з іх не маюць строга замацаванай формы. Нельга прадказаць, якую канкрэтную гукавую форму прыме тое ці іншае гукаперайманне. Напрыклад, як доўга трэба працягваць гук [ш], каб перадаць шоргат травы ці шум лісця? Як перадаць грукат грому — *тр-рах!* ці *тр-ра-рах!?* Гук стрэлаў перадаецца то як *та-та-та*, то як *ду-ду-ду*, то як *тах-тах-тах*, то як *тра-та-та-та* і г. д. Незамацаванасць моўнай формы не дазваляе лічыць гукаперайманні словамі ў поўным сэнсе гэтага тэрміна. Можна было б іх назваць толькі квазі-словамі.

Для перадачы некаторых гучанняў у мове паступова выпрацоўваюцца звычныя гукавыя комплексы, якія замацоўваюцца за пэўным гучаннем. Так, гукі крокаў перадаюцца як *туп-туп-туп*, крык гусей — *га-га-га*, крык зязюлі — *ку-ку*, ход гадзінніка — *цік-так*, гук званка — *дзын-дзын-дзын* і г. д. Напрыклад: *Звонка разляглося па лузе: «І-га-га-га-га!»* (Я. Колас); *Мчацца коні. Дзын-дзын-дзын! Гучна звон нясецца* (Я. Колас). Такія гукаперайманні значна больш блізкія да сапраўдных слоў.

Марфалагічная характарыстыка гукаперайманняў — чыста негатыўная. Яны нязменныя, непадзельныя паводле саставу. Адзінай адметнай асаблівасцю гукаперайманняў з'яўляецца тое, што для перадачы працяглых гукаў ці тых, што перыядычна паўтараюцца, выкарыстоўваецца поўны або частковы (з заменай аднаго ці некалькіх гукаў) паўтор гукавога комплексу: *ш-ш-ш, шу-шу-шу, бум-бум, піф-паф, трах-тарарах* і пад.

У тэксце гукаперайманні выступаюць як непадзельныя словы-сказы або ўключаюцца ў склад сказа, звычайна выконваючы ролю выказніка: *Бух! бух! бух! — адна за другой бухнулі тры гарматы лявей Рудаўца* (Я. Колас); *Галаву крыху адкінуў, ... і ў ражок той тру-гу-гу!* (Я. Колас). Пры ўмове субстантывацыі гукаперайманні могуць ужывацца ў ролі любога члена сказа: *Скора прыйдзе вясна, пранясецца «ку-ку» праз лясы, праз палі, праз наш Нёман-раку* (Цётка); *Пастух на вёсцы затрубіў сваё тру-гу* (П. Броўка).

Блізкімі да гукаперайманняў з'яўляюцца дзеясловы, якія абазначаюць імгненнае дзеянне, імгненныя, адрывістыя гукі: *трах, бах, кап, бум* і г. д. *Плыве човен, вады повен, ды ўсё хлюп! хлюп! хлюп!* (Я. Колас); *«Кап... кап... кап...» — пад рытмічныя ўдары кропель шпарка беглі думкі* (Т. Хадкевіч). Яны, уключаючыся ў сказ, выконваюць ролю выказніка і нават захоўваюць дзеяслоўнае кіраванне: *трах па карку, бух у дзверы.* Такія дзеясловы могуць абазначаць не толькі імгненны гук, але і іншае аднаразовае імгненнае дзеянне: *шмыг, кусь* і г. д. Напрыклад: *Уладзік зараз — шмыг у дзверы* (Я. Колас); *Зося — зірк, а перад ёю Уладзік* (К. Крапіва).

Гукаперайманні могуць служыць словаўтваральнай базай дзеясловаў з суфіксамі *-а-, -ава-, -ка-*: *кі-гік — кігікаць, кур-няў — курняўкаць, гаў — гаўкаць, ку-ку — кукаваць.*

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## ГУРСКІ МІКАЛАЙ ІВАНАВІЧ



Нарадзіўся М. І. Гурскі 4 чэрвеня 1905 г. ў в. Свінка Капыльскага раёна Мінскай вобласці. У 1937 г. скончыў Мінскі педінстытут. Кандыдат філалагічных навук (1950), прафесар (1962). Працаваў школьным настаўнікам, інспектарам аддзелаў народнай асветы на Міншчыне, выкладаў у БДУ і на рабфаку педінстытута. З 1944 г. працаваў у Мінскім педінстытуце (дэкан гісторыка-філалагічнага, літаратурнага факультэтаў, прарэктар па навуковай рабоце, загадчык кафедры рускай мовы, потым гісторыі рускай мовы). Памёр 5 ліпеня 1972 г.

М. І. Гурскі даследаваў пытанні беларускага, рускага і славянскага мовазнаўства. Апублікаваў шэраг артыкулаў і падручнік для філалагічных факультэтаў ВНУ «Параўнальная граматыка рускай і беларускай моў» (1962; 2 выд. 1972). Ён аўтар вучэбных праграм для педінстытутаў па курсах сучаснай беларускай мовы і параўнальнай граматыкі рускай і беларускай моў, сааўтар шэрага падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў: «Беларуская мова» (ч. 1—2, 1955—58) для педвучылішчаў і педагагічных інстытутаў; «Беларуская мова» (ч. 1—2. 1961—62) для факультэтаў падрыхтоўкі настаўнікаў пачатковых школ; «Русский язык» (ч. 1—2, 1962—65) для факультэтаў педагогікі і методыкі пачатковага навучання педагагічных інстытутаў; «Русский язык» (1965) — падручнік для 5-га і 6-га класаў школ з беларускай мовай навучання.

*Тв.:* Да пытання аб дададаных дзейнікавых сказах у сучаснай беларускай мове // Вуч. зап. Мінскага дзяржаўнага пед. ін-та. 1950. Вып. 1; Прычынныя сказы ў сучаснай беларускай мове // Тамсама. 1955. Вып. 4; З назіранняў над сінтаксічнымі канструкцыямі з параўнальнымі злучнікамі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове // Тамсама. 1956. Вып. 6.

*І. К. Германовіч.*

## ГУТАРКОВЫ СТЫЛЬ

Гутарковы стыль абслугоўвае пераважна сферу бытавых зносін. Ён рэалізуецца галоўным чынам у вуснай дыялагічнай форме. Тыповыя ўмовы, пры якіх адбываецца гутарка на бытавую тэму,— неафіцыйнасць і нязмушанасць, адсутнасць папярэдняга абдумвання, спантаннасць размовы. Гутарковая мова звязана з канкрэтным характарам мыслення, з патрэбамі штодзённых зносін, таму ў ёй шмат канкрэтна-бытавых слоў. Гутарковай мовай людзі выказваюць свае думкі, пачуцці, ацэнкі. Гэта абумоўлівае яе высокую эмацыянальнасць, актывізуе ўжыванне эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі і фразеалогіі, а таксама пытальных і пабуджальных сказаў.

Вось запіс гутаркі дзвюх жанчын.

— *Здароў.*

— *Здароў, здароў. Ну праходзь далей на хату, сядай.*

— *Дзякуй. Ну як жа ты тутака маешся, як пажываеш?*

— *А вот памаленьку, дзень да вечара. А я цябе вельмі даўно бачыла, ой, колькі часу прайшло шмат, бедавала, кажу: чаму гэта ты да нас не прыходзіш, думаю, можа чаго зазлавалася?*

— *А чаго ж я буду на цябе злаваць, ды і за што. Я ўвесь гэты час хварэла, так скруціла мяне, што думала ўжо не выжыву, памру, але памаленьку, памаленьку, глядзіш — і ачуняла.*

— *А што з табой такое зрабілася?*

— *А бо, дай жа рады: суседка папрасіла памагчы ёй перабраць бульбу ў склепе, расчыніла дзверы, і акенца таксама было адчынена, а мяне так скразняком прахапіла, што ўсе жылачкі скруціла ў целе, жывога месца на мне не было* (Н. С. Мажэйка, А. Я. Супрун). Стыль гэтага тэксту — гутарковы. У ім знайшлі адлюстраванне функцыя зносін (вітанне, запрашэнне, падзяка, роспыт пра жыццё, здароўе, увага да субяседніка) і функцыя паведамлення (расказ пра хваробу, яе прычыну). Прадмет гаворкі — побыт вясковых жыхароў — абумовіў некаторыя асаблівасці выкарыстання слоў, фразеалагізмаў, сінтаксічных канструкцый. Уласцівая размове эмацыянальнасць выражаецца выклічнікамі *(здароў, дзякуй, ой)*, формамі суб'ектыўнай ацэнкі *(памаленьку, жылачкі)*, устойлівымі зваротамі *(а бо, дай жа рады, дзень да вечара, жывога месца не было)*, пытальнымі сказамі. Тое, што ў літаратурна-кніжнай мове патрабуе апісання, пры вусных зносінах можа нават не называцца: часта яно як прадмет, змест гутаркі — перад вачыма ў тых, хто гаворыць. Вонкавая інфармацыйная недастатковасць гутарковай мовы кампенсуецца сітуацыяй маўлення, а таксама магчымасцямі інтанацыі, мімікі, жэстаў.

Для гутарковай мовы характэрна эліптычнасць, якая ў сінтаксісе выяўляецца праз разнастайнасць няпоўных сказаў. Такую з'яву можна назіраць у мове персанажаў мастацкіх твораў (апошняя адлюстроўвае асноўныя рысы гутарковага стылю).

*Пад поўдзень Міхал Тварыцкі сказаў жонцы:*

— *Зося, трэба адпачыць. Пасядзі з дзіцем. Я пайду ў лес, можа грыбы якія.*

— *Так позна грыбы?*

— *Чаму, цёплая восень* (К. Чорны).

Асаблівасцю інтанацыі гутарковай мовы тлумачацца выпадкі эліпсісу на фанетычным узроўні — паскарэнне тэмпу вядзе да няпоўнага вымаўлення гукаў і складоў.

— *Пачакай! Ну, пачкай!*

*Спяшаючыся, Васіль скрадваў адно «а» ў слове* (Ф. Янкоўскі).

Гутарковай мове ўласцівы фрагментарнасць, пэўная самастойнасць частак сказа. Размоўцу даводзіцца на хаду падбіраць найбольш дакладныя і значныя ў камунікатыўным плане моўныя сродкі, папраўляць папярэдне сказанае.

*Забаўскі гаварыў да Івана:*

— *Я ўсё думаў пра ваша выступленне, Іван Карнеевіч... Я сабе не магу дараваць... Чуў я ад людзей, краем вуха, як кажуць, пра вас... пра бацькоў вашых і ўсё не мог выбраць часу, каб пачуць пра ўсё ад вас... як яно было... Можа тады і з Шышкам па вуліцы не пайшоў бы, падумаў бы раней, што пра гэта скажуць людзі. Мне ўдвая недаравальна. Як сакратару... І як чалавеку, які нешта піша... збіраецца напісаць. У мяне нібыта другая тэма, і я адарваў вас, цяперашняга, ад вашага мінулага, ад вашага бацькі, героя-партызана* (І. Шамякін).

У гутарковай мове пераважаюць простыя сказы, складаназлучаныя і бяззлучнікавыя складаныя сказы. Складаназалежныя сказы з дадзенымі азначальнымі ў гутарковай мове — параўнальна з кніжнай — выкарыстоўваюцца абмежавана, а складаназалежныя з дадзенымі дапаўняльнымі вельмі пашыраны. Характар гутарковай мовы залежыць ад тэмы гаворкі і ад культурнага, інтэлектуальнага ўзроўню размоўцаў. Напрыклад, на перапынку вучні гавораць пра падрыхтоўку да ўрока геаметрыі. У такім разе яны ўжываюць у сваёй мове не толькі гутарковыя, нейтральныя, але і спецыяльныя, тэрміналагічныя словы і выразы: *трохвугольнік, транспарцір, тэарэма, доказ, геаметрычная фігура, паралельныя прамыя* і інш. У гутарцы пра хакей заканамерна выкарыстоўваецца спартыўная лексіка: *хакеіст, варатар,*

*клюшка, шайба* і інш. Наогул, у моўным абыходку шмат слоў і выразаў, якія адлюстроўваюць змены ў нашым жыцці і побыце. Новае ў мове павінна арганічна спалучацца з тым, што замацавалася ў маўленчай практыцы народа. Занядбанне традыцыйных сродкаў выказвання зніжае культуру мовы. Напрыклад, сёння ў размове часта ўжываецца слова *праблема*, яно выцясняе адпаведныя словы *задача, клопат, бяда* і інш.: *Прыклады парашаў, праблема вывучыць верш; Праблема: няма чырвонага алоўка; Праблема, дзе купіць джынсы; Тканіну купіла, праблема з каўняром.*

Добрае веданне мовы, уменне карыстацца ёю патрэбна кожнаму не толькі для таго, каб паспяхова наладжваць кантакт з іншымі людзьмі, але і для свайго эстэтычнага развіцця, духоўнага дасканалення. Таму зразумелая трывога за стан культуры мовы: «Мы загаварылі паміж сабой на нейкім дзіўным жаргоне: абы толькі субяседнік дазнаўся, што я маю на ўвазе, а якім чынам гэта мною перадаецца — усё роўна. Крыўдная і недарэчная абыякавасць. Так размываецца сама культура чалавека. Дастаткова зрабіць нейкі жэст, прамармытаць нешта, падміргнуць,— і вось цябе ўжо зразумелі...» (Азгур З. Каб зразумець адзін аднаго // Звязда. 1989. 12 кастр.).

Адзнакі гутарковага стылю выяўляюцца ў тэксце асабістага, сяброўскага пісьма.

*Дарагія Максім і Жэня, або — шыншах і шахіня! Люблю спалучэнне гэтых слоў — яны нагадваюць мне заміласанае слова маладнякоўцаў — «шыпшына». Іншага сэнсу не шукайце ў іх.*

*Ад чэрвеня месяца застаўся кароткі, як у зайца, хвосцік: праз два дні будзе 1 ліпеня, і я ўжо буду думаць аб складванні манаткаў, аб Маскве, аб сесіі Вярхоўнага Савета. Перадай прывітанне Лыню, Танку, Куляшу, Міхалу я пісаў пісьмо. Ад яго не меў. Як вы здаровы? Пра гэта ты ўжо раскажаш пры спатканні. Шчырае прывітанне Жэні і ўсім нарачанцам.* (З ліста Я. Коласа да М. Лужаніна.) Самая істотная стылёвая рыса тэксту — нязмушанасць. Гэтая рыса мае канкрэтнае моўнае выражэнне. Зваротак вызначаецца інтымнасцю *(Дарагія Максім і Жэня)* і нават жартаўлівасцю тону *(шыншах і шахіня)*. Тое, што пісьмо адрасавана сяброўскаму, інтымнаму колу, дае ўжыць і іншыя аказіянальныя формы іменаў: *Лынь, Міхал* (Лынькоў), *нарачанцы* (пісьменнікі, якія адпачывалі на Нарачы). Бясспрэчна, у афіцыйных абставінах, скажам, на пісьменніцкім сходзе, такія ўсечаныя прозвішчы і імёны амаль неверагодныя.

У тэксце прыкметна выяўляецца асноўная функцыя гутарковай мовы — функцыя зносін. На гэта паказваюць і змест, прызначэнне ліста — патрэба наладзіць сувязь з пэўнымі асобамі *(перадай прывітанне Танку, Міхалу я пісаў, раскажаш пры спатканні)*, і характэрнае для гутарковага стылю выкарыстанне моўных сродкаў, у прыватнасці дзеясловаў 1-й і 2-й асобы, формы загаднага ладу. Пры дапамозе дзеясловаў 1-й і 2-й асобы, а таксама ацэначнай лексікі *(дарагія, шчырае)* перадаецца другая стылёвая рыса гутарковай мовы — суб'ектыўнасць.

Неафіцыйнай сферай маўлення можна вытлумачыць ужыванне стылістычна зніжанага слова *манаткі*, для якога характэрна пэўная недакладнасць, прыблізнасць называння. Тут *манаткі* — не толькі адзенне, а, відаць, усё неабходнае ў дарогу, у тым ліку дакументы, паперы.

Гутарковы стыль як адну з разнавіднасцей літаратурнай мовы трэба адрозніваць ад народна-дыялектнай гутарковай мовы, якой карыстаецца частка жыхароў той ці іншай мясцовасці Беларусі.

У лінгвістычнай літаратуры, акрамя тэрмінаў «гутарковы стыль», «гутарковая мова», сустракаюцца іх сінонімы: «размоўны стыль», «размоўна-бытавы стыль».

*Літ.:* Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976; Юрэвіч А. К. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1983; Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1992. *А. А. Каўрус.*

## ГУТШМІТ КАРЛ



Нямецкі славіст Карл Гутшміт (Gutschmidt) нарадзіўся 12 верасня 1937 г. ў в. Фербелін (Германія). У 1960 г. скончыў Берлінскі універсітэт імя братоў Гумбальтаў. З 1967 г. выкладае там беларускую філалогію. Загадчык аддзялення славянскіх моў секцыі славістыкі гэтага універсітэта. У 1976 г. абараніў доктарскую дысертацыю «Нарысы па гісторыі славянскіх нацыянальных літаратурных моў». З 1982 г.— прафесар.

К. Гутшміт аўтар навуковых публікацый па лексікаграфіі, фразеалогіі, дыялекталогіі, стылістыцы і інш. пытаннях беларускага мовазнаўства. Значнае месца ў яго даследаваннях займаюць пытанні гісторыі развіцця і сучаснага стану беларускай мовы. Абапіраючыся на працы Л. М. Шакуна, І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч, М. Г. Булахава, А. І. Жураўскага і інш., Гутшміт раскрыў важнейшыя кірункі развіцця беларускай літаратурнай мовы ў параўнанні з іншымі славянскімі мовамі — рускай, польскай, сербскахарвацкай і балгарскай. Шмат увагі вучоны звяртае на ўплыў украінскага слоўнікавага складу на лексіку беларускай літаратурнай мовы. Ім упершыню шырока прааналізаваны шляхі і спосабы пранікнення балтызмаў у беларускую мову. Пытанні запазычанняў разглядаюцца ў шырокім дыяпазоне як часу (з сярэдзіны 19 да сярэдзіны 20 ст.), так і творчасці пісьменнікаў (В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Цётка, Я. Колас, М. Гарэцкі, З. Бядуля, К. Чорны, І. Мележ, Я. Брыль).

У 1980-я гг. Гутшміт звяртаецца да пытанняў стылістыкі беларускай літаратурнай мовы. У артыкуле «Аб развіцці стыляў беларускай прозы» (1983) аб'ектам даследавання сталі ўласныя імёны як кампанент стылю на прыкладзе ранніх апавяданняў Я. Коласа і М. Гарэцкага. Тут разглядаюцца не толькі прыватныя, але і агульныя заканамернасці развіцця стылю беларускай мастацкай прозы. Аўтар выяўляе функцыі ўласных імён у літаратурных творах і паказвае, як яны былі выкарыстаны ў маладой беларускай прозе.

Адзін з кірункаў дзейнасці Гутшміта — азнаямленне заходнееўрапейскай грамадскасці з даследаваннямі па беларускай лінгвістыцы. У часопісе «Zeitschrift für Slawistik» («Часопіс па славістыцы») ён апублікаваў рэцэнзіі на «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1967) і бібліяграфічны паказальнік «Беларускае мовазнаўства» (1968), разгледзеў выданні «Беларуская лінгвістыка», вып. 1—4 (1974), «Веснік БДУ імя У. І. Леніна» (1971, разам з К. Мюлерам) і інш. Высокую ацэнку ў яго рэцэнзіях атрымалі «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча, «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (т. 2) І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч, «Дыялектны слоўнік», «Народная сінаніміка» Г. Ф. Юрчанкі, «Народная лексіка», «Дыялектны слоўнік» П. У. Сцяцко, «Лаціна-руска-беларускі батанічны слоўнік» А. І. Кісялеўскага, «Беларуская фразеалогія» Ф. М. Янкоўскага, а таксама працы беларускіх лінгвістаў А. І. Жураўскага, М. А. Жыдовіч, М. К. Клышкі, Я. М. Рамановіч, А. Я. Супруна,

Л. М. Шакуна, П. П. Шубы і інш.

Важнае значэнне вучоны надае знаёмству лінгвістаў з гісторыяй і сучасным станам беларускай мовы на Захадзе. Ён прарэцэнзаваў працу амерыканскага вучонага Ч. Бідуэла па праблемах беларускай марфалогіі. У артыкуле «Аб беларускай філалогіі» (1980), прысвечаным А. Брукнеру, Гутшміт паказаў уклад польскага славіста ў знаёмства Заходняй Еўропы з беларусістыкай і духоўным жыццём беларускага народа, асабліва дзякуючы даследаванню сярэдневяковых помнікаў беларускага пісьменства. Гутшміт лічыць, што ўклад Брукнера недастаткова поўна і глыбока ацэнены, бо ён быў не толькі славістам за межамі тагачаснай Расіі, а адным з першых славістаў, які зрабіў беларускую мову, гісторыю літаратуры і культуры самастойным аб'ектам даследавання і тым самым садзейнічаў вывучэнню гэтай галіны філалогіі.

Значнае месца ў навуковай дзейнасці Гутшміта адводзіцца пытанням беларускай лінгвістыкі ў шырокім дыяпазоне параўнальных даследаванняў. Такая практыка шырока адлюстравана ў яго артыкулах «Беларуска-ўкраінскія ізалексы» (1971), «Даследаванне ўсходнеславянскіх моў у дыяхронным аспекце» (1972), «Балтыйскія даследаванні ў Беларускай ССР» (1978) і інш.

Не менш важнае значэнне нямецкі славіст надае стану і праблемам дыяхроннага і сінхроннага даследавання беларускай мовы. Гэтыя пытанні знайшлі сваё асвятленне ў артыкулах «Стан і значэнне дыяхроннага даследавання ў Беларускай ССР», «Даследаванне ўсходне-славянскіх моў у дыяхронным і сінхронным аспекце» і інш.

У публікацыях Гутшміта адзначаюцца і некаторыя вузкія месцы ў працах беларускіх лінгвістаў: недастаткова шырокае прымяненне метаду параўнальнага даследавання, нездавальняючае выкарыстанне замежных прац па беларускім мовазнаўстве, слабая арыентацыя ў асвятленні і распрацоўцы праблем беларускай лінгвістыкі за рубяжом, нават у бібліяграфічных крыніцах.

Гутшміт сам перакладае беларускую мастацкую літаратуру (Ядвігін Ш., З. Бядуля і інш.). Ён прымаў удзел у выданні серыі «Бібліяграфія славістычных публікацый з ГДР». Удзельнічаў у Міжнародных славістычных кангрэсах (Варшава — 1973, Кіеў — 1983, Сафія — 1988), дзе выступіў з дакладамі па праблемах беларускага мовазнаўства.

*Тв.:* Zwei neue Beiträge zur belorussischen Lexikographie // Zeitschrift für Slawistik. 1969. Bd. 14, H. 1; Zur belorussischen Lexikographie in den Jahren 1969 und 1970 // Тамсама. 1971. Bd. 16. H. 3; Рэц. на кн.: Bidwell Ch. E. Outline of Byelorussian Morphology // Тамсама. 1972. Bd. 17, H. 1; Parallele und divergente Entwicklungstendenzen in jungen slawischen Literatursprachen aus soziolinguistischer Sicht // Тамсама. 1973. Bd. 18. H. 4; Baltische Lehnwörter in der Sprache der belorussischen Literatur // Тамсама. 1974. Bd. 19, H. 2; Zur Baltistik in der Belorussischen SSR // Тамсама. 1978. Bd. 23, H. 5; Zur Entwicklung des Stils der belorussischen Prosa // Тамсама. 1983. Bd. 28, H. 1; Probleme der Periodisierung der Geschichte Slawischer Schriftsprachen // Тамсама. 1988. Bd. 33. H. 2.

*У. Л. Сакалоўскі*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай ... гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі.*

Адам Міцкевіч



**Д** — *пятая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Д («дабро»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай Δ («дэльта»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* д, дз', *пры аглушэнні* — т, ц' (данъ — *«дан'»*, дедъ — *«дз'эт»*, медь — *м'эц'»*); *зрэдку ўжывалася ў складзе дыграфа* дз (людзи — *«л'удз'і»*), *што з'яўлялася парушэннем тагачасных правапісных норм (агульнапрынята было пісаць* люди*). Мела таксама лічбавае значэнне «чатыры», з дадатковымі значкамі* ≠Д — *4000*, Ⓐ — *40000*, ⁝Ⓐ⁝ — *400 000*, ⁝Д⁝ — *4 000 000. У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваецца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў было яшчэ непаслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумны звонкі выбухны пярэднеязычны зычны гук* д (дом, дружба), *а перад глухімі зычнымі і на канцы слоў — парны да яго па звонкасці і глухасці гук* т (дудка — *«дутка»*, народ — *«нарот»*). *Уваходзіць у склад дыграфаў* дж (джала, ураджай) *і* дз (дзынкаць — *«дзынкац'»*, хадзіць — *«хадз'іц'»*). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ДРЭС). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «пяты» (група «Д»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 8 д).*

*А. М. Булыка.*

## ДАБРАВОЛЬСКІ УЛАДЗІМІР МІКАЛАЕВІЧ



Вывучэнне традыцыйнай народнай культуры Смаленшчыны і паўночнаўсходняй Беларусі было сэнсам і справай усяго жыцця У. М. Дабравольскага. Нарадзіўся ён 11 жніўня 1856 г. ў сяле Краснасвяцкае Пачынкаўскага раёна Смаленскай вобласці ў сям'і чыноўніка-двараніна. У 1868—1876 гг. вучыўся ў Смаленскай гімназіі, у 1880 г. скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта. Працаваў выкладчыкам Смаленскай жаночай гімназіі, а з 1883 г., вярнуўшыся ў свой маёнтак, збіраў этнаграфічны, фальклорны і лінгвістычны матэрыял. З 1902 г. працаваў інспектарам народных вучылішчаў у Разанскай губерні, а ў 1906—1917 гг.— у Ельнінскім павеце Смаленскай губерні. З 1918 г. выкладаў на чырвонаармейскіх курсах у Смаленску, у Беларускім народным універсітэце ў Маскве, у Віцебскім інстытуце народнай адукацыі і Смаленскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута. Падтрымліваў сувязь з А. А. Шахматавым, Я. Ф. Карскім, У. І. Ламанскім, І. В. Ягічам. За заслугі перад навукай быў абраны членам Рускага геаграфічнага таварыства, Таварыства прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце. Трагічна загінуў 7 мая 1920 г. на Смаленшчыне.

Краязнаўчай работай зацікавіўся яшчэ студэнтам, слухаючы лекцыі Ф. І. Буслаева, Ф. Я. Корша, У. Ф. Мілера. Выдаў «Смаленскі этнаграфічны зборнік» (т. 1—4, 1891—1903), напісаў шмат артыкулаў мовазнаўчага характару (пра гукаперайманні, народныя прозвішчы, пра тайныя мовы краўцоў, канавалаў, мяшчан). Яго самая каштоўная праца ў галіне мовазнаўства «Смаленскі абласны слоўнік» (1914), у якім распрацавана 16 560 артыкулаў з дыялектнымі словамі беларуска-рускага пагранічча. Рэестравая частка ахоплівае бытавую, сельскагаспадарчую, рамесніцкую, абрадавую лексіку, уласныя імёны і геаграфічныя назвы, устойлівыя і вобразныя словазлучэнні. Словы і выразы забяспечаны дакладнымі філалагічнымі, радзей этнаграфічнымі тлумачэннямі або рускімі і лацінскімі (назвы раслін, жывёл, анатамічныя тэрміны) літаратурнымі адпаведнікамі, падмацоўваюцца разнастайным ілюстрацыйным матэрыялам. Ролю ілюстрацый выконваюць пераважна запісы гутарковай мовы, фальклорныя творы: прыказкі і прымаўкі, урыўкі з народных песень, замовы і г. д. Праца стваралася на падставе матэрыялаў для «Смаленскага этнаграфічнага зборніка», таму ілюстрацыямі ў ёй служаць і ўрыўкі з апісанняў абрадаў, звычаяў, побыту. Напрыклад: БЛОНЬЕ. Низкое место, где луг залитый водою. *По блонню вада разливаитца, Лайрен дачкой набиваитца;* РАСПАЛЗТИСЬ. Разойтись в разные стороны. *Як бы ни йна, распаўзлись*

*бы вы, як мыши, стог зъеўшы»;* РАСТИГАЙ. Вышпорка, проборка. *Пагадзи, малый, пагадзи: было табе скульлё, будзиць и мульлё, будзиць табе слаўный расцигай.*

Слоўнік рэгіструе ўсе асноўныя значэнні слоў, іх сэнсавыя адценні, размяжоўвае мнагазначныя словы і амонімы. Але ў ім не выкарыстана сістэма граматычных і стылёвых памет, сустракаюцца адхіленні ад фанетычнага прынцыпу напісання загаловачных слоў. «Смаленскі абласны слоўнік» — грунтоўная праца ў галіне дыялектнай лексікаграфіі, у якой зберагаецца народная лексіка Смаленшчыны і ўсходняй Беларусі, самая буйная лексікаграфічная крыніца пасля слоўніка І. Насовіча. Я. Ф. Карскі станоўча ацэньваў слоўнік за паўнату і багацце зместу.

*Тв.:* Звукоподражания в народном языке и в народной поэзии // Этнографическое обозрение. 1894. № 3; Данные для народного календаря Смоленской губернии в связи с народными верованиями // Живая старина. 1898. Т. 3—4; О дорогобужских мещанах и их шубрейском или кубрацком языке // ИОРЯС АН. 1897. Т. 2, кн. 2; Некоторые данные условного языка дорогобужских мещан, калик перехожих, портных и коновалов, странствующих по Смоленской земле // Смоленская старина. 1916. Вып. 3, ч. 2.

*Літ.:* Гуліцкі М. Ф. «Смаленскі абласны слоўнік» У. Дабравольскага // Народнае слова. Мн., 1976; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды. Т. 2. Мн., 1977. *М. Ф. Гуліцкі.*

## ДАГАВОРНАЯ ГРАМАТА СМАЛЕНСКАГА КНЯЗЯ МСЦІСЛАВА ДАВЫДАВІЧА З РЫГАЙ І ГОЦКІМ БЕРАГАМ 1229 г.

Грамата — арыгінальны помнік старажытнай Русі 13 ст., створаны на Смаленшчыне. Адносіцца да ліку дзяржаўных юрыдычна-гандлёвых дакументаў. Змяшчае дагавор паміж «рускімі» (заходнярускімі — смаленскімі, віцебскімі, полацкімі) купцамі і «лацінскімі» (нямецкімі) з Рыгі і Гоцкага берага (Готланда). Вядомы 2 рэдакцыі граматы — готландская і рыжская, кожная з іх захавалася ў трох спісах, складзеных на Гоцкім беразе і ў Смаленску.

Грамата напісана на старажытнарускай (агульнаўсходнеславянскай) моўнай аснове, свабоднай ад уплыву з боку царкоўнаславянскай мовы. Гэты помнік мае істотнае значэнне для беларускага мовазнаўства. У ім зафіксаваны рысы будучай беларускай мовы. Так, у фанетыцы даволі шырока прадстаўлены поўнагалосныя формы (*городъ, горожане, сорома, сторону, золъто — золото, серебра, дѣревъемь, жеребѣи, пересудъ, берего, пъреже — переже*), замена ѣ на *е (ехати, на горе, по двине, всемъ, темь).* Сярод марфалагічных з'яў у адушаўлёных назоўніках адзначана нешматлікае супадзенне форм вінавальнага склону з родным *(прислалъ въ ригу своего лучьшего попа ерьмеꙗ и сь нимъ умьна мужа пантелья)*, наяўнасць інфінітыўнай формы не толькі з канцавым *-ти*, але і *-ть (усадить)*, адсутнасць спрагальных форм дапаможнага дзеяслова *быти* ў саставе перфекта *(пришелъ, уздумалъ, урѧдили, утвьрдили, трудили сѧ)*.

У сінтаксісе сустракаюцца канцылярскія словазлучэнні, формулы, уласцівыя юрыдычнаму стылю *(правду взѧти, того лета, твердити миръ)*, ужыванне злучніка *аже* (замест старaславянскага *аще*) для рэалізацыі ў сказе ўмоўнай сувязі *(Аже будѣте холъпь убить .ã. гривна серьбра заплатити)*.

У лексіцы граматы шырока выкарыстаны юрыдычныя і грамадска-палітычныя тэрміны (*биричь* 'паліцэйскі чын', *вина, дворѧнинъ* 'рыцар духоўнага ордэна', *дѣтьскии* 'службовы чын', *желѣза* 'кайданы', *наемъ, оружие* 'мірны дагавор', *пагуба, пересудъ* 'перагляд судовай справы', *послухъ* 'сведка', *посолъ, пьчать, роба* 'нявольніца', *староста* 'старшыня', *судъ, тать* 'злодзей, разбойнік'), словы з гандлёвай сферы (*векша* 'вавёрка, яе шкурка як гандлёвая адзінка', *волочанинь* 'хто жыў паміж суднаходнымі рэкамі і бурлачыў', *воскъ, вьсьць* 'хто ўзважваў тавар', *гривна* 'грашовая адзінка', *капь* 'адзінка вагі', *куна* 'куніца, яе шкурка як адзінка вартасці', *купьць, товаръ*), назвы купцоў і гандлёвых цэнтраў (*латининъ* 'чужаземец, еўрапеец', *немчичь* 'нямецкі купец', *русинъ* 'рускі купец', *смолнѧнинъ* 'смаленскі купец' *рига, гочкии берегъ*). Сярод спецыяльнай тэрміналогіі, зафіксаванай у грамаце, сустракаюцца і запазычаныя словы нямецкага паходжання (*мыто* 'пошліна', *фоготь* 'суддзя'), скандынаўскага (*тиунъ* 'службовая асоба пры князях, баярах, епіскапах') і цюркскага (*ногата* 'грашовая адзінка, 1/20 грыўні').

У тэксце граматы сустракаюцца арфаграфічныя памылкі ў напісанні пасобных літар, што прыводзіць да змяшэння іх гукавых значэнняў. Для захавання дакументальнай дакладнасці помніка ад пісца патрабавалася па магчымасці наблізіць тэкст да жывой народнай мовы. Гэта важная асаблівасць мовы граматы, дзе зафіксаваны і мясцовыя моўныя рысы, якія ў далейшым сталі функцыяніраваць як адметныя рысы беларускай мовы. Адначасова з прыстаўкай і прыназоўнікам *в* у адных і тых формах слоў пераважае *у (възѧти — узѧти, въсхочеть — усхочеть,* але: *уздумалъ, устоко — въстокъ, у вьрхъ, у низъ, у ригу, у место, у погребъ, у вълъсти, у смольнѣскъ, науспѧть)*; адлюстравана чаргаванне заднеязычных гукаў са свісцячымі *(у ризе, на березе, на вълъцѣ)*, чоканне — ужываецца *ч* замест *ц (гочкии, купчемъ, немчича)*; цоканне — замена *ч* на *ц (бирица — бирича)*; лексічныя дыялектызмы *(коло* 'калёсы', *учань* 'човен', *поставъ* 'кавалак тканіны', *починати, дѣяти сѧ, наимовати* 'наймаць', *учинити*).

Паходжанне граматы (яна створана на беларуска-рускім моўным пагранiччы) вызначае спецыфіку тэксту, якая мае істотнае значэнне для вывучэння гісторыі беларускай мовы. Адны з яе асаблівасцей адпавядаюць сучасным нормам беларускай мовы, а другія захаваліся ў вузкамясцовым ужыванні.

Арыгінал граматы напісаны на пергаменце, і большасць копій з яго захоўваецца ў Рыжскім гарадскім архіве. Адзін спіс у літаграфічным здымку апублікаваны І. П. Сахаравым у кнізе «Узоры старажытнай пісьменнасці» (Спб., 1841. Табл. 11), сем спісаў — у выданні К. Нап'ерскага «Рускалівонскія акты» (Спб., 1868. Дадат. № 1). Паводле літаграфічнага здымка ў выданні І. П. Сахарава грамата перадрукавана ў «Хрэстаматыі па гісторыі рускай мовы» С. П. Абнорскага і С. Г. Бархударава (М., 1952. Ч. 1) і выкарыстана ў артыкуле. Пазней паводле гэтага спіса грамата была апублікавана ў «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы» (Мн., 1961. Ч. 1).

*Літ.:* Борковский В. И. Смоленская грамота 1229 г.— русский памятник // Уч. зап. Ярославского гос. пед. ин-та. 1944. Вып. 1; Якубинский Л. П. История древнерусского языка. М., 1953. С. 285; Смоленские грамоты 13—14 веков. М., 1963; Ларин Б. А. Лекции по истории русского литературного языка (X — середина XVIII в.). М., 1975. С. 98—100; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984. С. 73—75. *У. В. Анічэнка.*

## ДАЛЕНГА-ХАДАКОЎСКІ ЗАРЫЯН ЯКАЎЛЕВІЧ

Беларуска-польска-руска-ўкраінскі археолаг, этнограф, славіст Даленга-Хадакоўскі Зарыян Якаўлевіч (Адам Чарноцкі) нарадзіўся 24.12. 1784 у маёнтку каля в. Гайна Мінскага павета (цяпер Лагойскі раён). Скончыў Слуцкае каталіцкае вучылішча (1801), працаваў у Мінску прыватным адвакатам, у бібліятэках Крамянецкага ліцэя (1814 — 18) і А. Чартарыйскага ў Пулавах (Люблінскае ваяводства) і інш. Член-карэспандэнт варшаўскага Таварыства сяброў навук (1819), член пецярбургскага Вольнага таварыства аматараў расійскай славеснасці (1819), маскоўскага таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх (1820). Памёр 17.11.1825 у в. Пятроўскае Цвярскога павета.

Упершыню ў славянскім мовазнаўстве Даленга-Хадакоўскі вылучыў беларускую мову з іншых славянскіх моў, вызначыў некаторыя яе фанетыч-



ныя, марфалагічныя і лексічныя асаблівасці, арэал распаўсюджання. Сярод фанетычных рыс адзначаў дзеканне, цеканне, ужыванне заднеязычнага звонкага фрыкатыўнага *г, ӯ* — у становішчы пасля галоснага перад зычным і пасля галоснага ў канцы слова і інш. Вучоны паведаміў пра гэта у сваёй справаздачы Дэпартаменту Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы Расіі ў час свайго падарожжа 14.5.1821 г. У беларускай мове ён адзначаў адсутнасць цюркскіх запазычанняў (*конь, рынак, пояс,* а не *лошадь, базар, кушак)* і наяўнасць беларускіх запазычанняў у літоўскай мове і літоўскіх у беларускай. Вучоны звярнуў таксама ўвагу на некаторыя архаічныя элементы ў беларускіх дыялектах, што, на яго думку, сведчыла пра больш павольныя змены дыялектнай мовы ў параўнанні з літаратурнай. Гэты факт адзначалі даследчыкі і раней, але ніхто з іх не разглядаў народныя гаворкі так дэталёва. На падставе сваіх назіранняў у «Данясеннях аб першых поспехах падарожжа ў Расію Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага: З Масквы 13 ліпеня 1822» (Русский исторический сборник. 1844. Т. 7) былі ўдакладнены межы рассялення ўсходнеславянскіх плямёнаў і вызначаны межы паміж беларускімі, рускімі і літоўскімі гаворкамі. У гэтай жа працы быў вызначаны арэал распаўсюджання беларускай мовы, якую вучоны называў крывіцкай і лічыў «самым распаўсюджаным дыялектам у рускай мове» (гл. карту **«Пашырэнне гаворак беларускай мовы ў пачатку XIX ст.»** на с. 57). На поўдні мяжу беларускай мовы Даленга-Хадакоўскі праводзіў па лініі Ратна — рака Гарынь — Ноўгарад-Валынскі — Жытомір — Чарнігаў. На ўсходзе ў склад беларускай мовы ўключалася Смаленская губерня да мяжы з губернямі Курскай, Маскоўскай і Яраслаўскай, на захадзе — Віленская, Гродзенская і Беластоцкая (да Райгарада на Падляшшы), на поўначы — Пскоўская, Наўгародская і Цвярская (да вусця ракі Мядзведзіцы).

Упершыню сярод славянскіх вучоных Даленга-Хадакоўскі звярнуў увагу на гістарычныя помнікі беларускай мовы (выданні Статута Вялікага княства Літоўскага, Радзівілаўскія граматы 17 ст. і інш.). Новымі былі назіранні вучонага ў галіне тапанімікі. Шляхам апытання мясцовых жыхароў, азнаямлення з архіўнымі матэрыяламі і з дапамогай карэспандэнтаў ён сабраў з вялікага абшару ад Адрыятыкі да Урала і Дона назвы славянскіх паселішчаў і гарадзішчаў, якія ўвайшлі ў яго чатырохтомны «Слоўнік старажытных геаграфічных назваў» (друкаваўся фрагментарна ў часопісе «Сын Отечества». 1820. № 33—35, 38—40; рукапіс захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу). Праца была высока ацэнена славістамі, а яе матэрыялы выкарыстаны П.-Ё. Шафарыкам у даследаванні «Славянскія старажытнасці» (М., 1848). У склад слоўніка ўвайшла вялікая колькасць беларускіх мікратапонімаў. Так, з коранем *тур* зафіксаваны наступныя: *Турок* у Мазырскім павеце, *Турэц* у Навагрудскім, Лепельскім і Ігуменскім паветах, *Туру* ў Суражскім павеце Віцебскай губерні, *Туркі* ў Віленскім павеце. Маючы на мэце пошукі прарадзімы славян, Даленга-Хадакоўскі пракаменціраваў тапонімы з пункту гледжання этналінгвістычнай аднастайнасці. Вучоны лічыў, што найбольш дакладнае іх тлумачэнне можна знайсці ў старажытнарускіх пісьмовых помніках, якія, на яго думку, захавалі шмат элементаў праславянскай мовы. Этымалагічны аналіз тапонімаў і назваў славянскіх плямёнаў прысутнічае таксама ў артыкулах «Даследаванні адносна рускай гісторыі» (1819), «Праект вучонага падарожжа па Расіі для тлумачэння старажытнай славянскай гісторыі» (1820) і інш. Раскрываючы паходжанне некаторых назваў, Даленга-Хадакоўскі стараўся пазбягаць фантастычнага этымалагізавання, якое было характэрна для даследчыкаў таго часу. Так, назву племені *крывічы* ён выводзіў са старажытнага этноніма *крэвы, радзімічы* — ад паселішча *Радомлі, севяране* — ад ракі *Северац, драўляне* — ад ракі *Дрэўлі* (а не ад назвы лясоў, як меркавалі яго сучаснікі), *Тураў* ад назвы жывёлы Urus, а не ад імя варага *Тура.* У іншых этымалогіях вучоны быў менш асцярожны і нярэдка дапускаў памылкі. Гэта была першая спроба даследавання ў галіне тапанімікі, якая стала падзеяй у тагачасным мовазнаўстве.

Багаты збор славянскай лексікі, у тым ліку і беларускай, змяшчае «Батаніка-заолага-астранамічны слоўнік» (у рукапісе), які таксама быў перапісаны Шафарыкам і выкарыстаны ў яго працах. Падставай для збору згаданай лексікі было тое, што старажытная агульнаславянская лексіка, на думку вучонага, захавалася пераважна ў назвах раслін, жывёл і нябесных цел. Беларускія прыклады ў слоўніку ёсць сярод назваў раслін: *багун, дурніцы, дзягіль;* назваў жывёл: *тур;* з'яў прыроды: *смок* — радуга (на Палессі), *ведра грае* — калі зарніцы бліскаюць на пагоду (таксама на Палессі); назваў месяцаў на Палессі: *квецень* — ліпень, *сівень* — верасень, *сочень* — красавік і інш. Рэестравыя словы пазначаны ў слоўніку назвамі мясцовасцей, дзе яны ўжываюцца: Валынь, Ваўкавыск, Мінск, Ноўгарад, Цвер і г. д. Славянскія назвы раслін, жывёл, зорак, адзення, пабудоў і іх частак, хатняга начыння і інш. суправаджаюцца прыкладамі са Статута Вялікага княства Літоўскага, Наўгародскіх грамат, чэшскага слоўніка З. Неедлага, польскага С. Б. Ліндэ, збораў прыказак А. Рыпінскага і Г. Кнапскага.

Слоўнікі Даленгі-Хадакоўскага з'яўляюцца багатым зборам славянскай лексікі, каштоўнай крыніцай для даследаванняў у галіне мовазнаўства і гісторыі. З'явай цалкам новай у тагачасным славянскім мовазнаўстве, нягледзячы на аглядны характар і памылковасць некаторых вывадаў, можна лічыць працы вучонага ў галіне дыялекталогіі, гісторыі мовы, тапанімікі і этымалогіі. Яны абудзілі цікавасць да беларускай мовы вучоных 19 ст. С. Богуша-Сестранцэвіча, К. Калайдовіча, П. Кэпена, І. Лабойкі, М. Пагодзіна, І. Снегірова, П.-Ё. Шафарыка і інш.

*Тв.:* Разыскания касательно русской истории // Вестн. Европы. 1819. № 20; Извлечения из плана путешествия по России для отыскания древностей славянских // Тамсама. 1820. № 17; Опыт изъяснения слова: князь, ksiądz (ksiąz — księż) // Северный архив. 1824. № 11; Путевые записки Ходаковского // Журнал Министерства народного просвещения. 1838. № 12; Отрывок из путешествия Ходаковского по России // Русский исторический сборник. 1839. Т. 11, кн. 2: O słowiańszczyśnie przed chrześcijaństwem oraz inne pisma i listy. Warszawa, 1967.

*Літ.:* Аксамітаў А. С., Малаш Л. А. З душой славяніна: Жыццё і дзейнасць З. Я. Даленгі-Хадакоўскага. Мн., 1991; Аксамітаў А. Ля вытокаў беларускага мовазнаўства: Са спадчыны Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага // Роднае слова. 1992. № 5. *А. С. Аксамітаў.*

## ДВУХМОЎЕ

Двухмоўе (білінгвізм) — гэта папераменнае карыстанне дзвюма мовамі. Калі ж ва ўжытку знаходзяцца тры і больш моў, прынята гаварыць пра шматмоўе, або полілінгвізм. Сэнс паняцця «двухмоўе» вынікае з выразу дзве мовы. Такая ж структура яго лацінскага эквівалента білінгвізм (bi двойчы і lingua мова).

На нашай планеце жывуць многія народы. Яны знаходзяцца ў пастаянным кантакце адзін з адным, асабліва этнасы суседнія, якія часта маюць адну тэрыторыю пражывання або знаходзяцца ў складзе адной дзяржавы. Вядома, напрыклад, што 3—4 тысячы народаў зямлі сёння ўтвараюць усяго каля 200 дзяржаўных аб'яднанняў. Моўныя кантакты, якія дыктуюцца эканамічнымі, культурнымі і іншымі сувязямі, патрабуюць вывучэння і выкарыстання ў моўнай практыцы дзвюх і больш моў. Існуюць і іншыя матывы авалодвання дзвюма ці некалькімі мовамі (атрыманне адукацыі, патрэбы навуковай дзейнасці і г. д.).

Вылучаюць наступныя разнавіднасці двухмоўя: індывідуальнае, калі дзвюма мовамі валодаюць толькі асобныя члены калектыву; групавое, калі двухмоўнымі з'яўляюцца цэлыя групы або асобныя сацыяльныя слаі; поўнае, ці суцэльнае, калі двухмоўе з'яўляецца характэрным для ўсіх сацыяльна-культурных груп народа. Можна гаварыць і пра нацыянальнае двухмоўе, калі яно пашырана сярод прадстаўнікоў усёй нацыі. Дзяржаўным двухмоўе называюць тады, калі ў адной краіне статус дзяржаўнай, ці афіцыйнай, маюць дзве мовы. Напрыклад, у Фінляндыі дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца фінская і шведская, у Канадзе — англійская і французская. Пры гэтым дзяржаўнае двухмоўе можа суправаджацца індывідуальным аднамоўем, калі насельніцтва краіны распадаецца на некалькі аднамоўных калектываў.

Двухмоўе — з'ява складаная, шматбаковая. Яна можа разглядацца ў трох аспектах: псіхалагічным, педагагічным і сацыялінгвістычным. Псіхалагічны яго аспект звязаны з асаблівасцямі псіхалагічнага складу індывіда, з яго разумовымі здольнасцямі, эмацыянальнай прыстасавальнасцю і г. д., з праблемай пераключэння з аднаго моўнага кода на другі. Педагагічны бок двухмоўя закранае розныя аспекты навучання другой мове, у тым ліку і ўплыў адной мовы на працэс засваення другой. Сацыялінгвістычная характарыстыка двухмоўя грунтуецца на такіх параметрах, як: сфера выкарыстання першай і другой мовы; ступень авалодання мовамі; набор сацыяльна-функцыянальных кампанентаў моў, якія выкарыстоўвае двухмоўны індывід (літаратурная мова, дыялект, жаргон і г. д.); размеркаванне камунікатыўных функцый паміж мовамі; кантынгент ахопленых двухмоўем членаў соцыуму і шырыня выкарыстання другой мовы; ацэнка двухмоўнымі індывідамі ўласнага двухмоўя як сацыяльна-лінгвістычнага феномена.

На тэрыторыі Беларусі двухмоўе існавала здаўна, хоць яго характар і састаўныя кампаненты мяняліся. Ужо ў перыяд Вялікага княства Літоўскага (13—18 ст.) існавала беларуска-царкоўнаславянскае пісьмовае і вуснае двухмоўе. З пашырэннем на тэрыторыі Беларусі польскай мовы (пасля аб'яднання Вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам) пачало складвацца беларуска-польскае двухмоўе. Пазней, калі пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 гг.) беларускія землі адышлі да Расіі і функцыі афіцыйнай мовы ў значнай ступені стала выконваць руская мова, шырока развіваецца беларуска-рускае двухмоўе. У раёнах сумеснага пражывання беларусаў з іншымі народамі фарміравалася беларуска-літоўскае, беларуска-латышскае, беларуска-яўрэйскае і г. д. двухмоўе. У перыяд уваходжання беларускіх зямель у склад Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, а таксама ў апошнія дзесяцігоддзі 20 ст. характар і развіццё двухмоўя і ў цэлым моўнай сітуацыі на Беларусі ў значнай ступені залежалі ад дзяржаўнай палітыкі (паланізацыя, русіфікацыя і інш.). Моўная сітуацыя на Беларусі ў пэўныя гістарычныя перыяды характарызавалася ў цэлым як шматмоўная, кампанентамі якой былі пералічаныя вышэй канкрэтныя разнавіднасці двухмоўя пры фактычным аднамоўі значнай часткі беларускага насельніцтва.

Сучасная моўная сітуацыя на Беларусі характарызуецца пераважна суіснаваннем і выкарыстаннем беларускай і рускай моў і можа быць вызначана як беларуска-рускае двухмоўе. Нацыянальнае беларуска-рускае двухмоўе прадстаўлена індывідуальным беларуска-рускім (калі побач з роднай беларускай двухмоўны індывід выкарыстоўвае і рускую мову), руска-беларускім двухмоўем і індывідуальным беларускім і рускім аднамоўем. Сапраўды, значная частка насельніцтва Беларусі актыўна карыстаецца і рускай, і беларускай мовамі ў розных сферах грамадскай дзейнасці. Аднак існуюць і значныя кантынгенты людзей, якія практычна карыстаюцца толькі якой-небудзь адной мовай. Калі ж браць пад увагу і пасіўнае валоданне другой мовай, і ўспрыманне на ёй пэўнай інфармацыі (паняцце двухмоўя ўлічвае і гэты аспект), то трэба прызнаць, што ўсё беларускае насельніцтва з'яўляецца двухмоўным.

Побач з беларуска-рускім двухмоўем на тэрыторыі Беларусі ў месцах сумеснага пражывання беларусаў з палякамі, літоўцамі, латышамі існуе адпаведна беларуска-польскае, беларуска-літоўскае, беларуска-латышскае двухмоўе. Для небеларускага насельніцтва яно мае характар польска-беларускага, літоўска-беларускага і г. д. Паколькі ў гэтых раёнах функцыяніруе і руская мова, можна гаварыць, напрыклад, пра мясцовае беларуска-польска-рускае і г. д. шматмоўе.

Пра характар беларуска-рускага двухмоўя і наогул пра моўную сітуацыю на тэрыторыі Беларусі сведчаць і матэрыялы перапісаў. Так, паводле дадзеных перапісу 1989 г., на Беларусі пражывала 10 200 тыс. чалавек, з іх беларусаў — 7 905 тыс. чалавек. З іншых нацыянальнасцей найбольш шматлікія рускія (1 342 тыс.), палякі (418 тыс.), украінцы (291 тыс.), яўрэі (112 тыс.). Усяго на Беларусі пражываюць прадстаўнікі больш як 80 нацый і нацыянальнасцей. Згодна з перапісам 1989 г. 6 497,9 тыс. (80,2 %) беларусаў у рэспубліцы лічаць роднай мовай беларускую. Акрамя таго, больш за 1215 тыс. (каля 12 %) жыхароў Беларусі назвалі беларускую мову другой мовай, якой яны свабодна валодаюць.

Поўная характарыстыка двухмоўя ў Рэспубліцы Беларусь прадугледжвае дэталёвы аналіз функцыяніравання нацыянальнай беларускай і іншых моў у кожнай з камунікатыўных сфер, таму што ў залежнасці ад сферы зносін размеркаванне суіснуючых моў і інтэнсіўнасць іх выкарыстання могуць быць рознымі. Сёння і беларуская, і руская мовы выкарыстоўваюцца ў большасці важнейшых сфер, аднак у колькасных адносінах пераважае ўсё ж руская. Такое становішча нельга прызнаць у наш час нармальным. З прыняццем у 1990 г. Закона «Аб мовах у Беларускай ССР», наданнем беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы суадносіны ў выкарыстанні суіснуючых моў на тэрыторыі Беларусі пачынаюць мяняцца на карысць беларускай мовы. Паступова павышаецца яе грамадскі прэстыж, пашыраецца кола людзей, якія актыўна выкарыстоўваюць яе ў розных сферах сваёй дзейнасці, і г. д.

У сітуацыі двухмоўя ўзаемадзеянне моў, якія кантактуюць, прыводзіць да інтэрферэнцыі, г. зн. пры маўленні на адной мове ўжываюцца элементы другой мовы. Іншымі словамі, інтэрферэнцыя прыводзіць да парушэння нормаў суіснуючых моў. Узровень інтэрферэнцыі залежыць ад ступені авалодання другой мовай, ад умення свядома адрозніваць факты розных моў і шэрага іншых прычын. Беларуска-руская і руска-беларуская інтэрферэнцыя — з'ява даволі распаўсюджаная і закранае ўсе сферы моўнай сістэмы: фанетыку, акцэнтуацыю, марфалогію, лексіку, сінтаксіс. Напрыклад, у рускай мове двухмоўнага індывіда сустракаюцца такія беларускамоўныя фанетычныя рысы, як цвёрдыя *р* і *ч* на месцы рускіх мяккіх *р'* і *ч'*, фрыкатыўнае *γ* на месцы рускага выбухнога *г, дз'* і *ц'* на месцы *д'* і *т'*, ярка выражанае аканне і інш. (блаγадару, крэпас'ц', дзеци). Гэтыя асаблівасці вельмі ўстойлівыя і могуць заставацца ў беларуска-рускага білінгва на ўсё жыццё. Таксама вельмі ўстойлівыя акцэнтуацыйныя памылкі, якія характарызуюць як рускае, так і беларускае маўленне бі-

лінгва. Разнастайныя інтэрферэнцыйныя памылкі на марфалагічным узроўні абумоўлены разыходжаннямі ў граматычным афармленні рускіх і беларускіх лексем (разыходжанні ў родзе і ліку, склонавых формах назоўнікаў і г. д.), асабліва тых, якія маюць агульныя карані (рус. *шинель*, ж; *медаль*, ж; *степь*, ж; *насыпь*, ж.— бел. *шынель*, м.; *медаль*, м.; *стэп*, м.; *насып*, м.). Ужыванне ў беларускай мове выразу *пісаць чарніламі* замест правільнага *пісаць чарнілам* звязана з уплывам рускага *писать чернилами* (бел. *чарніла*, толькі адзіночны лік — рус. *чернила*, толькі множны лік). Лексічная беларуска-руская інтэрферэнцыя выклікана рознымі тыпамі лексіка-семантычных сыходжанняў і разыходжанняў кантактуючых моў. Напрыклад, ужыванне білінгвам у беларускай мове выразу *гуляць ролю* замест *адыгрываць ролю* (параўнайце рус. *играть роль*) абумоўлена неаднолькавым аб'ёмам значэнняў і асаблівасцямі ўжывання ў рускай і беларускай мовах слоў *іграць (играть)* і *гуляць (гулять)*. Наадварот, ужыванне пры маўленні на рускай мове выразу *мыть бельё*, выклікана тым, што беларуская лексема *мыць* па значэнні адпавядае дзвюм рускім *мыть* і *стирать*.

Блізкароднасны характар беларускай і рускай моў абумоўлівае шматлікасць і ўстойлівасць інтэрферэнцыйных памылак пры маўленні на той ці іншай мове. Аднак яны, як правіла, не ўплываюць на працэс разумення выказванняў як на беларускай, так і на рускай мовах. Таму праблема інтэрферэнцыі для беларуска-рускага двухмоўя стаіць, пераважна, як праблема культуры беларускай і рускай моў ва ўмовах двухмоўя.

Блізкім да паняцця двухмоўя з'яўляецца паняцце д ы г л о с і і (грэч. di двойчы, двайны і glōssa мова). Размова ідзе пра выкарыстанне дзвюх разнавіднасцей адной мовы, напрыклад літаратурнай мовы і дыялекту, літаратурнай мовы і жаргону і г. д. Для Беларусі, дзе сацыяльныя ці прафесійныя жаргоны не атрымалі прыкметнага пашырэння, дыглосія характарызуецца суіснаваннем і паралельным выкарыстаннем літаратурнай мовы і мясцовых гаворак. Дыглосныя сітуацыі звычайна вызначаюцца выразным размеркаваннем сфер выкарыстання той ці іншай разнавіднасці мовы. Так, калі сельскія школьнікі ў сямейна-бытавой сферы карыстаюцца пераважна мясцовай гаворкай, то ў школе, як правіла, толькі літаратурнай формай беларускай мовы.

Сёння, калі беларуская мова стала дзяржаўнай, новае вытлумачэнне і новыя кірункі развіцця павінен атрымаць і беларуска-іншамоўны білінгвізм. Галоўная задача заключаецца ў тым, каб было створана ўсё, што неабходна для грунтоўнага авалодання ўсімі грамадзянамі нашай краіны дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь, а таксама рознымі мовамі іншых народаў свету з мэтай забеспячэння і ўмацавання як нацыянальна-культурнага суверэнітэту Рэспублікі, так і яе годнага ўваходжання ў палітычныя, эканамічныя і культурныя кантакты з усімі краінамі і народамі сусветнай садружнасці. Двух- і шматмоўе — дзейсны сродак вырашэння гэтай задачы.

*Літ.:* Ш в е й ц е р А. Д., Н и к о л ь с к и й Л. Б. Введение в социолингвистику. М., 1978; В а й н р а й х У. Языковые контакты. Киев, 1979; С у п р у н А. Е. Лекции по лингвистике. Мн., 1980. С. 61—97; Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Русский язык в Белоруссии. Мн., 1985; Б о н д а л е т о в В. Д. Социальная лингвистика. М., 1987; Закон «Аб мовах у Беларускай ССР». Мн., 1990.

*А. А. Лукашанец.*

## ДВУХМОЎЕ Ў ЛІТАРАТУРЫ І ФАЛЬКЛОРЫ

У сатырычнай камедыі Я. Купалы «Тутэйшыя» ёсць эпізод, калі «нібы вучоныя» — Усходні вучоны і Заходні вучоны — прыходзяць да беларускага настаўніка Янкі Здольніка, каб паглядзець на «праўдзівы тып беларуса» і зрабіць «навуковыя нататкі»:

*З а х о д н і в у ч о н ы (запісваючы ў нататкі, галасна). Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральскей. Людносць абэцне розкшэвя сень на две галэнзі родовэ: племён бялорусінув і племён тэж-бялорусінув з паходзэня рэнэгатув і дэгэнэратув. Мова ойчыста — огульна-польска, незвычайне удосконалёна, ено з велькон домешкон незрозумялых слув.*

*У с х о д н і в у ч о н ы (таксама запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным). Іоан Здольніков. Ісціно-русскій ціп Северо-Западной Області і безусловно з прымесью монгольско-фінской кровi. Народность ныне распадается на две родовые ветві — племя — белорусы і племя — тожэ-белорусы, ісходзяшчэе от ренегатов і дзегенератов. Родной язык — общэрусскій, веліколепно усовершэнствованный, но с большой прімесью непонятных слов.*

Гэты ўрывак дае поўнае ўяўленне аб двухмоўі (гл. **Двухмоўе**) у мастацкай літаратуры. Па-першае, тут яскрава адлюстроўваецца сутнасць з'явы: мастацкае двухмоўе — гэта выкарыстанне элементаў іншай мовы ў мастацкім тэксце. Па-другое, відочна, што ўжыванне элементаў іншых моў выклікана мастацкімі мэтамі: для стварэння сатырычных вобразаў «нібы вучоных», якія лічаць Беларусь не самастойнай дзяржавай, а часткай Польшчы (Заходні вучоны) ці Расіі (Усходні вучоны), Я. Купала наўмысна ўжыў у маўленні «гэных нібы вучоных» польскую і рускую мовы. Несапраўднасць іх «вучонасці» паглыбляецца тым, што так званыя «навуковыя нататкі» падаюцца беларускай графікай (з адлюстраваннем некаторых асаблівасцей беларускага правапісу): «нібы вучоныя» лічаць, што тая беларуска-руска-польская моўная мешаніна, якой яны карыстаюцца, і ёсць «праўдзівая беларуская мова».

Выкарыстанне элементаў іншых моў характэрна і для паэтычнага, і для празаічнага жанраў. Вось як у вершы Т. Мітрафанавай «Здесь соком клюквенным, капустным...» адлюстроўваюцца фанетычныя асаблівасці беларускай мовы: Душевность речи белорусской // Алешка с детства полюбил... // А здесь *каханне* и *чаканне*, // *Каханне* — рядышком *спатканне*. // Потом *свитанне* и *жаданне* — // Богато древнее *каханне!* // И как ручей звенит в апреле, // Так здесь и *дзень*, и *дзива, дзеле*, // И так же издавна в народе, // Как легкий гром — и *гэй*, и *годзе*.

Беларусізмы тут дапамагаюць раскрыццю паэтычнай метафары. Беларускае слова *каханне* рыфмуецца з шэрагам слоў, якія ствараюць яго шчаслівы, светлы вобраз — *чаканне, спатканне, світанне, жаданне*. Выкарыстоўваючы фанетычныя асаблівасці беларускай мовы, аўтар стварае вобразы, якія выклікаюць у чытача ўяўленне аб мяккасці, меладычнасці, лёгкасці беларускага маўлення. Мяккасць ствараецца ўжываннем беларускіх слоў з мяккім [н'], чысты, меладычны, крыштальны звон нагадвае нам гук [дз'] — таму словы *дзень, дзіва, дзеле* памагаюць нам «пачуць» журчанне ручая, а гук [г] фрыкатыўны ў словах *гэй, годзе* — лёгкае грукатанне, веснавыя грымоты.

Прыём змешвання стыляў і моў выкарыстаў У. Караткевіч для стварэння вобраза сучаснага бяздушнага чыноўніка-бюракрата, для якога «дакумент», папера заўсёды больш важныя, чым жывая справа. З неарганічнай мешаніны рускіх і беларускіх слоў вырастае такі вобраз: *Ну мы кажам: не трэба, вазьміце так. А яны: звініце, але трэба дакументы, адчотнасць. Гэта імушчаства* («Былі ў мяне мядзведзі»).

Уключэнне ў тэкст твора элементаў іншай мовы звычайна абумоўлена аб'ектам мастацкага адлюстравання, законамі мастацкай творчасці. Э. Самуйлёнак увёў у раман «Будучыня», пабудаваны на матэрыяле з жыцця Грузіі, лексіку грузінскай мовы (*духан, батоно, бічо, чонгуры* і інш.), уласныя імёны грузінаў *(Іліко, Кетэ, Коркія, Вано)*. Іншамоўныя элементы памаглі перадаць нацыянальны каларыт, асаблівасці маўлення персанажаў. Яны служаць таксама і для дадатковай сэнсавай, эмацыянальнай, экспрэсіўнай характарыстыкі вобраза.

Аднак злоўжыванне іншамоўнымі элементамі зніжае эстэтычную вартасць твораў.

Выкарыстанне дыялектных сродкаў у мастацкім творы таксама можа разглядацца як разнавіднасць двухмоўя (творчасць І. Мележа, В. Адамчыка і інш.).

Мастацкае двухмоўе вядома яшчэ з антычнай эпохі, для якой характэрны лаціна-грэчаская і грэчаска-лацінская формы — сведчанне ўзаемадзеяння і ўзаемаўплыву лацінскай і грэчаскай моў, літаратур, культур Рыма і Элады. Напрыклад, у мове паэмы рымскага паэта Лукрэцыя «Аб прыродзе рэчаў», дзе выкладаецца вучэнне грэчаскага філосафа Эпікура, даволі многа грэцызмаў, выкарыстаных паэтам у стылістычных мэтах. У тэксце «Рымскай гісторыі» Апіяна, напісанай на грэчаскай мове, адчувальны ўплыў лацінскай мовы.

У залежнасці ад спецыфікі моў, якія знаходзяцца ў кантакце, вылучаюць розныя формы мастацкага двухмоўя. Найбольш распаўсюджана творчасць на дзвюх мовах.

У гісторыі літаратуры Беларусі таксама вядомы розныя формы двухмоўя. Тыповым прыкладам двухмоўя ў рэлігійнай літаратуры (беларуска-царкоўнаславянскае двухмоўе) лічыцца мова пражскага «Псалтыра» (1517), віленскіх «Малой падарожнай кніжкі» (1522) і «Апостала» (1525), якія выдаў Ф. Скарына, і «Евангелля» (каля 1580) В. Цяпінскага. На беларускай, польскай і лацінскай мовах пісаў С. Будны, ён выдаў «Катэхізіс» (1562) на беларускай мове. Прадстаўнік беларуска-лацінскага двухмоўя — М. Гусоўскі. На беларускай, польскай і лацінскай мовах пісаў свае творы А. Рымша, на беларускай пачынаў творчую дзейнасць Сімяон Полацкі.

У 1696 г. рашэннем сейма Рэчы Паспалітай беларуская мова як дзяржаўная была забаронена. У культурным і літаратурным жыцці Беларусі 2-й паловы 17—18 ст. пераважаюць польская і лацінская мовы. З цягам часу лацінская мова выцясняецца польскай і аж да 1830 г. на Беларусі на польскай мове выдаюцца кнігі, газеты, часопісы, вядзецца справаводства і школьная адукацыя. Аднак шэраг беларускіх пісьменнікаў — Я. Чачот, А. Рыпінскі, Я. Баршчэўскі, В. Каратынскі, У. Сыракомля, В. Дунін-Марцінкевіч і інш.— пішуць свае творы на беларускай і польскай мовах. З 1830-х гадоў на Беларусі больш актыўна распаўсюджваецца руская мова. Пасля паўстання 1863—64 гг. яна займае вядучае становішча ў грамадска-палітычным жыцці беларускага народа, пранікае ў творы беларускіх пісьменнікаў. Пэўны пласт складаюць элементы рускай мовы ў творах В. Дуніна-Марцінкевіча (*відаў, ураг, браніў, возле, ізбыткі, лучы, прачней, уласць, іспугайся, совесць* і інш.), К. Каліноўскага (*мудроны, праворны, прыказ, прадсмертны, февраль* і інш.), Ф. Багушэвіча (*пасрэднік, міравы, участковы, стыд, нядзель* і інш.), А. Гурыновіча (*звукі, мысль, плясалі, между* і інш.). Ужыванне русізмаў абумоўлена і стылістычнымі мэтамі, і тым, што яшчэ не замацаваліся як норма ўласныя лексічныя сродкі беларускай мовы.

У 19 ст. пачалося фарміраванне беларускай літаратурнай мовы. Адначасова пераразмяркоўваліся формы мастацка-літаратурнага двухмоўя. У канцы 19 — пачатку 20 ст. прыйшлі пісьменнікі, якія пісалі па-беларуску і па-руску: А. Гурыновіч, М. Багдановіч, Я. Колас і шэраг іншых паэтаў, празаікаў, перакладчыкаў.

У пачатку 20 ст. ў маладой беларускай мастацкай літаратуры і публіцыстыцы шырока ўжываліся запазычанні з рускай лексікі. Іх можна сустрэць практычна ў любым беларускім выданні таго часу. Некаторыя літаратары фактычна карысталіся рускімі словамі і зваротамі, толькі надаючы ім беларускую графічную форму, або рабілі калькі. Зразумела, што такія спробы далёка не заўсёды давалі станоўчыя вынікі. У свой час негатыўныя моманты такога ўплыву сталі прадметам пільнай увагі К. Чорнага. У артыкуле «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры» ён прыводзіў прыклады такой моватворчасці, калі замест рускіх канструкцый *я не имею охоты идти, половые отношения, дай ключ открыть шкаф* узнікалі беларускія *я не імею палявання ісці, падлогавыя адносіны, дай крыніцу адчыніць шафу*. К. Чорны правільна адзначаў небяспечную тэндэнцыю, калі ў выніку іншамоўнага ўплыву беларуская мова не ўзбагачаецца, а наадварот — засмечваецца, скажаецца, траціць свой нацыянальны дух.

Была, зразумела, і іншая тэндэнцыя. Лепшыя майстры беларускай літаратуры, і ў першую чаргу Я. Купала і Я. Колас, давалі ўзоры майстэрскага выкарыстання сродкаў рускай мовы ў сваіх мастацкіх творах. У рускай літаратурнай мове яны імкнуліся браць толькі самае неабходнае, абумоўленае ідэйна-эстэтычнымі задачамі творчасці. Яны дамагаліся гарманізацыі разнамоўнага матэрыялу, звяртаючыся пераважна да такіх сродкаў рускай мовы, якія не супярэчылі беларускаму нацыянальнаму моўнаму каларыту, арганічна ўліваліся ў беларускае моўнае рэчышча.

Некаторыя сучасныя беларускія пісьменнікі пішуць на рускай ці беларускай і рускай мовах або перакладаюць свае творы на рускую мову (А. Адамовіч, В. Быкаў, В. Казько, К. Тарасаў, Э. Ялугін і інш.).

Героі іх твораў найчасцей беларусы, жыхары Беларусі. Творы будуюцца на беларускім матэрыяле. Усё гэта робіць непазбежным выкарыстанне беларусізмаў у мове твораў, напісаных па-руску або перакладзеных на рускую мову. Зразумела, зварот да беларусізмаў падпарадкоўваецца вырашэнню тых або іншых ідэйна-эстэтычных задач.

У беларускім фальклоры выразна выяўляюцца сувязі з вуснапаэтычнай творчасцю рускага, украінскага, польскага і іншых славянскіх народаў. Для яго характэрна выкарыстанне традыцыйнай агульнаславянскай паэтыкі, сюжэтаў, сістэмы вобразаў; агульнасць тэм, ідэй, мастацкіх сродкаў, якія ўзнікалі на глебе генетычнага адзінства, кантактных сувязей, што ўплывала і на асаблівасці мовы некаторых фальклорных твораў. Беларускі фальклор актыўна засвойваў рускія салдацкія песні пра падзеі 1812 г., Крымскай вайны 1853—56 гг. і інш. Напрыклад, шырока вядомая песня пра Палтаўскі бой «Была дзела пад Палтавай» у працэсе яе бытавання на Беларусі хоць і набыла некаторыя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы, але захавала пераважна рускую лексіку. Асаблівасці мовы фальклорнага твору раскрываюць яго паходжанне. Шматлікія русізмы (*распашу я пашаньку, ізлаўлю, падаркі* і інш.) у песні «Як за лесам» нагадваюць пра першакрыніцу.

Наяўнасць іншамоўнай лексікі ў фальклорным творы не заўсёды сведчыць пра яго паходжанне. Напрыклад, у канцы 19 — пачатку 20 ст. русізмы ўжываліся ў гутарковай мове, адкуль яны пранікалі ў мову апавядальных жанраў беларускага фальклору і ў песенныя наватворы, асабліва гэта датычыцца гарадскога фальклору.

Элементы іншых моў як мастацкі сродак, як адлюстраванне жывой рэчаіснасці з яе сацыяльнымі, рэлігійнымі, палітычнымі, нацыянальнымі асаблівасцямі шырока ўжываліся ў народных драмах, інтэрмедыях, батлейцы. Тыпы, што выводзіліся ў сцэнічных творах, захоўвалі не толькі ўсе асаблівасці свайго нацыянальнага аблічча, але і гаворкі. Як адлюстраванне таго, што адукацыя на Беларусі вялася на польскай мове, у інтэрмедыі «Селянін і студэнт» студэнт размаўляе на ёй: *Студэнт. Мой мужу, вы часэм за квартэ гожалкі розум пшэдаеце, а за цо сен мы мамы дрожыць; достанеш у мне за біты таляр доставкем, только в цож возьмеш? Селянін. Кажуць, маспане, што розум да галавы ідзець; то гэто ты, вашэць, мне ў ухо накладзі, а я сынку свайму ўдома ўсё вытрасу.*

Дваранін, генерал, салдат звычайна размаўлялі на рускай мове, селянін — на беларускай (хоць у размове з польскамоўнымі персанажамі ўжывалі і польскую), студэнт, лях, паляк — на польскай; стылізавалася мова яўрэя, цыгана і іншых персанажаў. Напрыклад, у батлейцы «Цар Ірад» барын, упершыню з'яўляючыся на сцэне, гаворыць пра сябе: *Я із-за Волгі дваранін*, таму натуральна, што ён размаўляе на рускай мове: *Барын. Вот,*

*гаспада, не купіт лі кто ў мяне ржы? А то ў мяне очэнь многа! Сходна аддаю!*

Такім чынам, двухмоўе ў творах мастацкай літаратуры і фальклоры характарызуецца найперш выкарыстаннем іншамоўных элементаў. Яно робіць мову герояў і персанажаў больш яркай, індывідуалізуе іх характары, сведчыць пра жывыя працэсы ўзаемадзеяння культур і моў розных народаў.

*Літ.:* Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Гіруцкі А. А. Двухмоўе ў мастацкай літаратуры Беларусі // Бел. мова і літ. ў школе. 1988. № 7—8. *А. А. Гіруцкі.*

## ДЗЕЕПРЫМЕТНІК

У працэсе маўлення ўзнікаюць сітуацыі, калі прыкмета прадмета або асобы павінна выяўляцца ў часе. Наша мова мае спецыяльныя сродкі для выражэння такой прыкметы. Гэта сінтаксічны сродак — даданая азначальная частка складана-залежнага сказа *(Цішынёй і бязлюддзем павеяла ад гарадка, **які ахутала асенняя смуга**)* і спецыяльны марфалагічны сродак — дзеепрыметнік *(Цішынёй і бязлюддзем павеяла ад гарадка, **ахутанага** асенняй смугой.* Т. Хадкевіч).

Дзеепрыметнік — асобая дзеяслоўная форма, якая мае ўласцівасці дзеяслова і прыметніка. Такая дваістасць яго граматычнай прыроды абумоўлівае наяўнасць у яго як дзеяслоўных форм часу, трывання і стану, так і прыметнікавых форм роду, ліку і склону. Значэнні роду, ліку, склону выражаюцца такімі ж канчаткамі, што і ў прыметніках. Дзеепрыметнікі, як і прыметнікі, дапасуюцца ў родзе, ліку і склоне да назоўнікаў і выступаюць у сказе ў ролі дапасаванага азначэння. Як і іншыя формы дзеяслова, дзеепрыметнікі бываюць незакончанага і закончанага трывання. Дзеепрыметнікі незакончанага трывання маюць формы цяперашняга і прошлага, а закончанага — толькі формы прошлага часу. Яны могуць мець формы незалежнага і залежнага стану; дзеепрыметнікі незалежнага стану бываюць незваротнымі або зваротнымі.

Утварэнне дзеепрыметнікаў адбываецца з дапамогай суфіксаў. Дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану ўтвараюцца ад асноў цяперашняга часу дзеясловаў незакончанага трывання з дапамогай суфіксаў *-уч-(-юч-)* або *-ач-(-яч-)*, пры гэтым выбар галоснай *у(ю)* ці *а(я)* абумоўлены спражэннем дзеяслова: *-уч-(-юч-)* для I спражэння *(пішучыя, малюючыя)*, *-ач- (-яч-)* для II спражэння *(гаворачыя, спячыя)*. Утварэнне такіх дзеепрыметнікаў патэнцыяльна магчыма як ад пераходных, так і ад непераходных дзеясловаў. У сучаснай беларускай мове такія дзеепрыметнікі ўжываюцца вельмі рэдка. Яны сустракаюцца ў навуковым, дзелавым або публіцыстычным стылях: *Жыве ў душы газетчыка гэты гонар, і будзе ён жыць да таго часу, пакуль грымяць ратацыі, што тысячамі адлічваюць **пахнучыя** свежай фарбай газетныя лісты* (І. Навуменка). І толькі ў выключных выпадках такія дзеепрыметнікі трапляюцца ў мове мастацкай літаратуры (у аўтарскай мове): *А тут — бяскрайні сасновы лес, прыцярушаны марозным снегам, **захапляючы** сваёй магутнай цішынёй* (П. Пестрак). Выкарыстанне такіх дзеепрыметнікаў не пажадана і таму, што ў формах мужчынскага роду адзіночнага ліку назоўнага склону яны аманімічныя з дзеепрыслоўямі, а гэта часта перашкаджае правільна ўспрымаць выказванне.

Дзеепрыметнікі цяперашняга часу залежнага стану ўтвараюцца ад асноў цяперашняга часу, як правіла — пераходных дзеясловаў незакончанага трывання з дапамогай суфіксаў *-ом- (-ем-)* для I спражэння *(самалёт, вядомы камандамі з зямлі; мадэль, ствараемая канструктарам)*, *-ім- (-ым-)* для II спражэння *(лікі, дзялімыя на тры; мучымы ўспамінамі)*. Такія дзеепрыметнікі ўтвараюцца не ад усіх дзеясловаў (практычна не ўтвараюцца ад дзеясловаў *берагчы, малоць, марозіць, церці, чысціць* і інш.) і выкарыстоўваюцца ў сучаснай мове выключна рэдка, у навуковым, публіцыстычным ці дзелавым стылях, у мове тэхнічнай літаратуры. Яны могуць трапляць як выключэнне ў мову мастацкай літаратуры: *Чуўся трэск **узрываемых** дошак, звон разбітага шкла* (М. Лынькоў), *Як толькі ўспыхнуў агеньчык, з мора пачуўся **заглушаемы** шумам хваль працяглы свіст* (Э. Самуйлёнак). Аднак такое ўжыванне ўспрымаецца як адхіленне ад нормы.

Значэнне залежнага стану можа ў пэўнай ступені перадавацца і зваротнымі формамі дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу: *утвараючыяся, дзелячаяся.* Такія формы маглі б выступаць як сінонімы да дзеепрыметнікаў на *-ом-(-ем-), -ім- (-ым-) — утвараемыя, дзялімая.* Аднак зваротныя формы не характэрны для сучаснай мовы, ужыванне іх не рэкамендуецца, іх трэба лічыць парушэннем літаратурнай мовы.

Дзеепрыметнікі цяперашняга часу прадстаўлены ў сучаснай мове толькі поўнымі формамі.

Дзеепрыметнікі прошлага часу незалежнага стану ўтвараюцца ад асноў прошлага часу (або інфінітыва) пераходных і непераходных дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання суфіксамі *-ш-* або *-ўш-: знікшы, пераносшая, уцалеўшыя.* Формы такіх дзеепрыметнікаў у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду аманімічныя з дзеепрыслоўямі, таму выкарыстоўваць іх непажадана: *Прайшоўшы праз невялікі неабгароджаны дзядзінец, **абросшы** густа крапівою і палыном, ён увайшоў у хату* (З. Бядуля). Астатнія ж формы дзеепрыметнікаў на *-ш-(-ўш-)*, хоць і не часта, але сустракаюцца ў мове газет і часопісаў, у мове мастацкай літаратуры: *Па доўгаму калідору хадзілі ўзад і ўперад толькі што **прыехаўшыя** сяляне* (К. Чорны); *Асудзіць патрабуюць яны чалавека без веры, **уцякаўшага** ад вайны, да вышэйшае меры...* (А. Куляшоў).

Паралельна з суфіксам *-ш-/-ўш-* у сучаснай мове пашырылася ўтварэнне дзеепрыметнікаў прошлага часу незалежнага стану з суфіксам *-л-: збялелы, уцалелы, памерлы, амярцвелы: Скрозь тырчэлі **счарнелыя**, ужо ад вільгаці пні з пацеркамі смалы* (К. Чорны). У дзеепрыметніках з суфіксам *-л-* значна аслаблена значэнне дзеяння і пераважае значэнне прыметы, таму яны лёгка пераходзяць у прыметнікі.

Дзеепрыметнікі прошлага часу залежнага стану ўтвараюцца ад пераходных дзеясловаў закончанага трывання з суфіксамі *-н-(-ен-), -ён-, -ан- (-ян-)* і *-т-: засеяны, прайграны, замкнёны, адведзены, наладжаны, апрануты, распачаты.* У асобных выпадках дзеепрыметнікі могуць утварацца як з суфіксамі *-н-(-ен-), -ён-, -ан-(-ян-)*, так і з суфіксам *-т- (замкнёны — замкнуты, змоланы — змолаты, праполаны — праполаты).* Дзеепрыметнікі з усімі гэтымі суфіксамі шырока выкарыстоўваюцца ва ўсіх стылях сучаснай мовы: *На **выслізганых** лыжамі і санкамі гурбах лыжы раз'язджаліся, коўзаліся ў бакі* (І. Шамякін); *Увaходзіць Карабан, **пераапрануты** так, што яго не пазнаць* (П. Глебка). У гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры дзеепрыметнікі прошлага часу залежнага стану ўтвараюцца і ад дзеясловаў незакончанага трывання: *мераны, сушаны, молаты, чуты; І нядарам **біты** сцежкі непракладзеных дарог...* (П. Глебка); ***Пісаны** ліст на вайне незнаёмай рукой* (А. Куляшоў).

Дзеепрыметнікі прошлага часу залежнага стану прадстаўлены ў мове дзвюма формамі: поўнай і кароткай. Поўная форма выступае ў ролі азначэння або іменнай часткі састаўнога выказніка, а кароткая — выключна ў складзе выказніка. Пры выбары дзеепрыметніка залежнага стану як іменнай часткі састаўнога выказніка перавага аддаецца кароткай форме, калі гэта дзеепрыметнік множнага ліку ці жаночага або ніякага роду адзіночнага ліку: *Святло вузкаю стужкаю падала на яго праз аконца, што **высечана было** ў адным бервяне ў сцяне* (К. Чорны). Калі ж гэта дзеепрыметнік мужчынскага роду адзіночнага ліку, то перавага аддаецца поўнай форме: *Хутарок **быў пабудаваны** на арандаванай скарбовай зямлі* (Я. Колас), хоць не выключана і ўжыванне кароткіх форм.

Аналіз утварэння і ўжывання дзеепрыметнікаў паказвае, што найбольш устойлівымі ў сучаснай мове з'яўляюцца формы прошлага часу залежнага стану; менш пашыраны дзеепрыметнікі прошлага часу незалежнага стану з суфіксам *-ш-/-ўш-* (за выключэннем форм з суфіксам *-л-*), абмежаваны ва ўжыванні формы цяперашняга часу незалежнага стану з суфіксамі *-уч-/-юч-, -ач-/-яч-*, і амаль зніклі з ужытку формы залежнага стану з суфіксамі *-ом-/-ем-, -ім-/-ым-*. Вядома, што абмежаванае выкарыстанне або амаль поўнае знікненне названых форм дзеепрыметнікаў у мове павінна нечым кампенсавацца. У якасці такой кампенсацыі выступае сінанімічны сродак — даданая азначальная частка складаназалежнага сказа.

У агульнаўсходнеславянскай мове, як вядома, існавалі тры іменныя формы дзеяслова: інфінітыў, супін і дзеепрыметнік. Старабеларуская мова атрымала ў спадчыну ад агульнаўсходнеславянскай разгалінаваную сістэму дзеепрыметнікаў і інфінітыў. Дзеепрыметнікі ў мове ўжываліся шырока і актыўна. Кароткую форму, як зыходную і асноўную, мелі ўсе дзеепрыметнікі. З цягам часу яны сталі траціць актыўнасць, многія страцілі кароткую форму, і толькі дзеепрыметнікі прошлага часу залежнага стану з суфіксамі *-л-, -н-(-ен-), -ён-, -ан-(-ян-), -т-* працягваюць шырока функцыяніраваць ва ўсіх стылях сучаснай мовы.

Дзеепрыметнік у сказе мае абсалютнае або адноснае значэнне часу. Абсалютнае значэнне часу звычайна ўласціва дзеепрыметнікам прошлага часу залежнага стану, якія выступаюць у ролі іменнай часткі састаўнога выказніка: *Пра ўсё ўжо* ***было перагаворана*** (А. Асіпенка). Адноснае значэнне часу маюць дзеепрыметнікі ў ролі азначэння. Яны адносяць прымету ў план таго часу, які мае дзеяслоў-выказнік.

Пры аслабленні і страце дзеяслоўных прымет на першы план у дзеепрыметніках пачынае выступаць якаснае, а не працэсуальнае значэнне, дзеепрыметнікі пераходзяць у прыметнікі. Гэты працэс называецца а д ' е к т ы в а ц ы я й  д з е е п р ы м е т н і к а ў. Не ўсе яны з аднолькавай лёгкасцю пераходзяць у прыметнікі. Якаснае значэнне найчасцей развіваецца ў дзеепрыметніках з суфіксамі *-л-, -н-(-ен-), -ён-, -ан-(-ян-)* і *-т-: зледзянелы, стомлены, стрыманы, зладжаны, абжыты; Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,—* ***ўдзіраванелы*** *курган векавечны* (Я. Купала); *Пракоп адчуў сябе* ***пабітым*** *і адзінокім* (Я. Колас). У прыметнікі могуць пераходзіць і іншыя дзеепрыметнікі: *адстаючыя* (вучні), *нержавеючая* (сталь), *прайшоўшы* (час), *невядомы* (падарожнік) і інш. Спрыяе пераходу ў прыметнікі тэрміналагічнае ўжыванне дзеепрыметнікаў.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; Ш у б а П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987; В е ш т а р т Г. Ф. Дзеепрыметнікі ў мове законаў // Бел. лінгвістыка. Мн., 1988. Вып. 34. *П. П. Шуба.*

## ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ

Дзеепрыслоўе — неспрагальная форма дзеяслова, якая абазначае дзеянне як прыкмету прыметы, г. зн. мае ўласцівасці дзеяслова і прыслоўя. Дзеепрыслоўе выражае значэнне дзеяння, дадатковага (пабочнага) у адносінах да дзеяслова-выказніка [*Ганна, апрануўшыся, выйшла з хаты* (П. Пестрак)], або выконвае функцыю акалічнасці спосабу дзеяння *(Хлопчык ішоў кульгаючы)*. У ролі выказніка дзеепрыслоўе ўжываецца толькі ў асобных паўночна-заходніх і паўночна-ўсходніх гаворках: *Ён быў устаўшы; Ён руку зламаўшы.*

Паводле нормаў сучаснай мовы, дзеепрыслоўе ў сказе павінна адносіцца да той самай асобы ці прадмета, г. зн. да таго суб'екта, што і дзеяслоў-выказнік: *Ціха скрыгануўшы коламі, сталі вагоны* (М. Лынькоў). У сказе паведамляецца, што вагоны сталі і што пры гэтым яны скрыганулі коламі. Калі ж суб'ект дзеепрыслоўя не супадае з суб'ектам выказніка, тады такое ўжыванне расцэньваецца як парушэнне нормы: *Прыйшоўшы дамоў, у мяне згубіліся ключы.* Атрымліваецца, што прыйшоў не той, хто сказаў гэта, а прыйшлі самі ключы. З гэтай прычыны не варта ўжываць дзеепрыслоўе і пры выказніках у безасабовых сказах. Напрыклад, сказ *І, лежачы ў параходнай кабінцы, усё думалася аб незлічоных шляхах...* (М. Лынькоў) не адпавядае норме.

Дзеепрыслоўе называе ў сказе дзеянне, якое адбываецца адначасова з асноўным *(На вуліцы крычалі дзеці, бегучы ў школу)*, раней за яго *(Выслухаўшы разведчыкаў, капітан падняўся з зямлі)* або пасля яго *(Расшпіліў каўнер, адкрываючы грудзі ветру)*. Аднак марфалагічнае значэнне часу ў дзеепрыслоўях не выражана: яно перадаецца толькі сэнсам саміх дзеясловаў і дзеепрыслоўяў. Так, у сказах: *Спявалі жнеі ідучы* (П. Трус); *Чалавек стаяў не рухаючыся; Ён падымае такі камень жартуючы* — адзіночныя дзеепрыслоўі ў пазіцыі пасля выказніка фактычна ўжо сталі прыслоўямі, некаторыя з іх нават страцілі значэнне дзеяння (*жартуючы* — значыць лёгка, без напружання).

Адрозніваюцца дзеепрыслоўі незакончанага і закончанага трывання. Дзеепрыслоўі н е з а к о н ч а н а г а  т р ы в а н н я ўтвараюцца ад асноў цяперашняга часу дзеясловаў незакончага трывання з дапамогай суфіксаў *-учы-(-ючы-), -ачы-(-ячы-): несучы, чытаючы, лежачы, гледзячы.* Пры гэтым з суфіксам *-учы-(-ючы-)* утвараюцца дзеепрыслоўі нават ад тых дзеясловаў, аснова цяперашняга часу якіх канчаецца на *-а-(-я-): крычучы* (ад *крычаць*), *дрыжучы* (ад *дрыжаць*), *сплючы* (ад *спаць*), *баючыся* (ад *баяцца*).

Дзеепрыслоўі з а к о н ч а н а г а  т р ы в а н н я ўтвараюцца ад асноў прошлага часу дзеясловаў закончанага трывання з дапамогай суфіксаў *-ўшы-, -шы-*. Калі ўтваральная аснова канчаецца галосным гукам — ужываецца суфікс *-ўшы- (зрабіўшы, прачытаўшы)*, калі зычным — суфікс *-шы- (высахшы, прывыкшы)*. Дзеепрыслоўі з гэтымі суфіксамі зрэдку могуць утварацца і ад асноў незакончанага трывання: *гуляўшы, нёсшы.* Такія дзеепрыслоўі не прызнаюцца нормай, але зрэдку ўжываюцца ў мове мастацкай літаратуры: *А я сам, даўно не быўшы дома, стаў... такім жа дзіваком* (П. Глебка).

Дзеепрыслоўі маюць н е з в а р о т н у ю  і  з в а р о т н у ю  ф о р м ы. У сучаснай мове ўжываюцца дзеепрыслоўі толькі незваротныя *(бегучы, ідучы)*, толькі зваротныя *(смеючыся, баючыся)*, незваротныя і зваротныя з розным лексічным значэннем *(робячы* і *робячыся)* або фактычна з адным і тым жа лексічным значэннем, адрозніваючыся толькі стылістычна *(стукаючы — стукаючыся, бляючы — бляючыся)*.

Разам з паяснялънымі словамі дзеепрыслоўе ўтварае ў сказе спалучэнне, якое выконвае ролю акалічнасці і звычайна адасабляецца інтанацыйна, а на пісьме вылучаецца коскамі. Выключэнне складаюць канструкцыі тыпу: *Пісаў ён звычайна нахіліўшы галаву; Сказаць не падумаўшы* і г. д. У гаворках можна сустрэць дзеепрыслоўе ў ролі часткі выказніка: *Ён прыйшоў паснедаўшы; Ён ка мне прывыкшы.*

Дзеепрыслоўе як граматычная форма дзеясловаў склалася даволі позна. Беларускае дзеепрыслоўе — гэта амярцвелая кароткая форма назоўнага склону адзіночнага ліку дзеепрыметнікаў цяперашняга або прошлага часу жаночага роду (*идучи*>*ідучы, принесъши*>*прынёсшы)*. Гэтыя формы рана пачалі страчваць сувязь з назоўнікамі, станавіцца нязменнымі і набылі ролю акалічнасці. Ужо ў пачатку 16 ст. такія былыя дзеепрыметнікі атрымалі ўстойлівае значэнне дзеепрыслоўяў.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962. С. 385—415; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985. С. 192—193; К е ч ы к С. Я. Дзеепрыслоўе ў беларускай мове. Мн., 1985; Ш у б а П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. С. 220—224. *П. П. Шуба.*

## ДЗЕЯСЛОЎ

Дзеяслоў — адна з асноўных знамянальных часцін мовы, якая абазначае дзеянне, працэс або стан, што адбываюцца ў часе, і выражае іх праз формы асобы, ліку, часу, ладу, а таксама роду, трывання і стану. Дзеяслоў з'яўляецца граматычным і сэнсавым цэнтрам выказвання, у сказе ён звычайна бывае выказнікам. У лексіконе мовы ён, як і назоўнік, займае асноўнае месца. Ён мае шырока разгалінаваную, багатую і складаную сістэму форм, а па частаце ўжывання ідзе адразу пасля службовых слоў і займеннікаў.

Сучасная сістэма форм дзеяслова ўключае 4 разрады: інфінітыў, спрагальныя формы, дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі. Розніца паміж імі даволі істотная. Два апошнія называюць атрыбутыўнымі формамі. Нездарма многія мовазнаўцы лічаць дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе асобнымі часцінамі мовы.

Што ж аб'ядноўвае гэтыя дзеяслоўныя формы ў адну часціну мовы? Папершае, агульнасць лексічнага значэння: і *спілаваць*, і *спілую, спілуеш, спілаваў, спілуй*, і *спілаваны*, і *спілаваўшы* — усе гэтыя словы так ці інакш маюць дачыненне да дзеяння 'зрэзаць што-небудзь з дапамогай пілы'. Па-другое, аднолькавасць сінтаксічных сувязей: каб перадаць значэнне дзеяння і прылады, якой гэта дзеянне ўтвараецца, усе формы дзеяслова *спілаваць* патрабуюць ад залежнага назоўніка формы творнага склону (*спілаваць пілой; спілую, спілуеш, спілаваў, спілуй пілой; спілаваны пілой; спілаваўшы пілой*).

Разгледзім сістэму дзеяслоўных форм і граматычных значэнняў. Граматычнае значэнне стану — незалежнага ці залежнага — уласціва спрагальным формам і дзеепрыметніку. Формы незалежнага стану паказваюць, што дзеянне ўтварае суб'ект, пры гэтым назва суб'екта як вытворцы і носьбіта дзеяння перадаецца ў сказе формай назоўнага склону: *Вучань робіць мадэль самалёта; Вучань зрабіў мадэль самалёта.* У сказах з формамі залежнага стану адносіны паміж суб'ектам і аб'ектам іншыя: тут дзеяслоўная прыкмета ў граматычным плане прыпісваецца аб'екту, а сапраўдны вытворца дзеяння названы формай творнага склону: *Мадэль самалёта робіцца вучнем; Мадэль самалёта зроблена вучнем.* Дзеясловы залежнага стану не часта ўжываюцца ў сучаснай мове. У размоўным стылі гэтай формы звычайна пазбягаюць, і толькі ў публіцыстычным і дзелавым стылях яна абмежавана выкарыстоўваецца: *скошаны касой, абгароджаны плотам* — форма творнага склону прывычна ўспрымаецца як назва сродку ці інструмента.

Граматычнае значэнне трывання — незакончанага ці закончанага — уласціва спрагальным формам, інфінітыву і дзеепрыслоўям; у пэўнай ступені гэта значэнне праяўляецца і ў формах дзеепрыметнікаў. Дзеясловы незакончанага трывання абазначаюць дзеянне як працяглы ці незавершаны працэс, як спробу дасягнуць выніку, а дзеясловы закончанага трывання — завершанае дзеянне, дасягнуты вынік, імгненнае дзеянне і г. д. Карацей кажучы, дзеясловы незакончанага трывання называюць дзеянне без указання на яго ўнутраную мяжу (*хадзіў, угаворваў, свістаў, чытаў*), а закончанага — дзеянне з указаннем на яго ўнутраную мяжу (*выйшаў, угаварыў, свіснуў, прачытаў*). Закончанае і незакончанае трыванні выражаюцца рознымі лексемамі, таму ўтварэнне дзеясловаў аднаго трывання ад дзеясловаў другога трывання — гэта не формазмяненне, а словаўтварэнне. Сродкі ўтварэння дзеясловаў іншага трывання: прыстаўкі — *чытаў* (незакончанага) — *прачытаў* (закончанага); суфіксы — *угаворваў* — *угаварыў;* націск — *рассыпа́ць* — *рассы́паць;* гістарычныя чаргаванні — *адбіраць* — *адабраць;* суплетывізм асноў — *браць* — *узяць.* Не ўсе дзеясловы ўтвараюць трывальныя пары. Ёсць дзеясловы толькі закончанага трывання (*рынуць, хлынуць, адшумець, дагаспадарыцца, пазакрываць*) або толькі незакончанага трывання (*спаць, быць, настаўнічаць, паблісквацъ;* безасабовыя дзеясловы *спіцца, працуецца, нездаровіцца*). Ёсць і такія дзеясловы, якія ў адной і той жа словаформе аб'ядноўваюць значэнні абодвух трыванняў (*раніць, абяцаць, атакаваць, мабілізаваць* і інш.). У сказах *Танкісты так дружна і смела атакавалі калону, што полк не змог ні арганізаваць супраціўленне, ні хоць бы адступіць у парадку* (І. Мележ) і *Піянеры кожны дзень атакавалі свайго важатага* дзеяслоў *атакавалі* — адпаведна закончанага і незакончанага трывання.

Граматычнае значэнне ладу — абвеснага, загаднага ці ўмоўнага — уласціва толькі спрагальным формам. Формай абвеснага ладу перадаецца дзеянне як рэальны факт (*дождж лье, ліў і будзе ліць*). Формы загаднага ладу паказваюць на тое, што дзеянне павінна ажыццявіцца ў выніку пабуджэння, патрабавання ці просьбы (*зачыні дзверы; дай, калі ласка, кніжку*). Формы ўмоўнага ладу паказваюць, што дзеянне ўяўляецца як магчымае, мяркуемае ці пажаданае (*прынёс бы, зрабілі б, сказала б*). Калі форма ўмоўнага ладу выражае пажаданне, яна паводле значэння набліжаецца да формы загаднага ладу: *Ты, стары, зубоў не загаворвай, а вось* ***згатаваў бы*** *яечню, а то паставіў на стол чорт ведае што* (М. Лынькоў).

Формы часу — цяперашняга, прошлага і будучага — уласцівы спрагальным дзеясловам абвеснага ладу. Цяперашні час паказвае, што дзеянне адбываецца ў момант гутаркі (*хаджу, еду, чытаю*), прошлы — што дзеянне адбылося да моманту гутаркі (*нёс, чытаў, купілі*), будучы — што дзеянне адбудзецца пасля гутаркі (*куплю, прачытаю, буду маляваць*). Будучы час можа быць простым і складаным. Формы будучага складанага часу ўтвараюцца ад асабовых форм дзеяслова *быць* і інфінітыва асноўнага дзеяслова. Дзеясловы цяперашняга часу могуць называць дзеянне, якое ўласціва прадмету і якое адбываецца безадносна да часу яго выяўлення: *птушка лятае*, г. зн. яна здольна лятаць; *дзіця ўжо ходзіць*, г. зн. навучылася хадзіць. Формай цяперашняга часу можна перадаць і дзеянне, якое адбывалася ў мінулым: *еду я ўчора з горада, і раптам...*

Формы асобы — 1-й, 2-й, 3-й — уласцівы асабовым дзеясловам цяперашняга і будучага часу абвеснага ладу і ў пэўнай ступені — дзеясловам загаднага ладу. 1-я асоба паказвае, што суб'ектам дзеяння з'яўляецца сама гаворачая асоба (*ведаю, пішу, робім*, а таксама *хадзем, станьма, спяшаймася*); 2-я асоба — што суб'ектам дзеяння з'яўляецца субяседнік (*пішаш, просіш, глядзіш, робіце*, а таксама *ідзі, скажы, прадайце*); 3-я асоба — што суб'ектам дзеяння з'яўляецца асоба або прадмет, пра якія ідзе гутарка (*вучань расказвае, пяро добра піша, сонца ўсходзіць*). Форма 3-й асобы здольна перадаць значэнне, не звязанае з паняццем асобы (*цямнее, світае, нездаровіцца*). Такія дзеясловы лічацца безасабовымі. Граматычнае значэнне асобы ў дзеясловах прошлага часу абвеснага ладу, а таксама ў дзеясловах умоўнага ладу перадаецца сінтаксічна — тымі займеннікамі ці назоўнікамі, з якімі гэтыя дзеясловы звязаны (*я прыйшоў* — 1-я асоба; *брат пайшоў бы* — 3-я асоба).

Граматычнае значэнне ліку — адзіночнага ці множнага — уласціва спрагальным дзеясловам і дзеепрыметнікам. Форма адзіночнага ліку выражае аднесенасць дзеяння да аднаго суб'екта, множнага — да некалькіх суб'ектаў. Значэнне ліку выражаецца канчаткамі (*чытаю* — *чытаем, ідзі* — *ідзіце, сказала* — *сказалі*). Безасабовым дзеясловам значэнне ліку не ўласціва, а таму такія дзеясловы маюць толькі формы адзіночнага ліку.

Граматычнае значэнне роду могуць мець дзеясловы прошлага часу абвеснага і ўмоўнага ладу і дзеепрыметнікі толькі ў адзіночным ліку. Сродкамі выражэння граматычнага значэння роду выступаюць канчаткі (*вёў, вяла́, вяло; прыйшоў бы, прыйшла б, прыйшло б; збудаваны, збудаваная, збудаванае*). Форма ніякага роду можа ўказваць на безасабовасць (*развіднела, падмарозіла*).

У залежнасці ад асаблівасцей словазмянення ўсе спрагальныя формы адносяцца або да I спражэння *(пячы, шыць; пяку, шыю; пячэш, шыеш; пячэ, шые; пячом, шыем; печаце, шыеце; пякуць, шыюць)*, або да II спражэння *(вазіць, маўчаць; важу, маўчу; возіш, маўчыш; возіць, маўчыць; возім, маўчым; возіце, маўчыце; возяць, маўчаць)*.

Сучасная сістэма форм дзеяслова з'яўляецца вынікам працяглага развіцця гэтай часціны мовы. У старажытнай беларускай мове не было дакладнага процірастаўлення закончанага і незакончанага трывання, затое было больш разнастайных форм часу. Існавалі формы прошлага часу — аорыст (***придоша*** *послы от великого князя*), імперфект (***живяху*** *ту летъ десеть*), перфект (***я продалъ*** *ѥсмь* ***сѣножати***), плюсквамперфект (старажытнаруская форма *ѥсмь былъ взялъ*, якая рана спрасцілася і у старабеларускіх помніках мела выгляд: *она* ***была прышла*** — «Аповесць пра Трышчана»); формы будучага часу — будучы складаны I *(боронитися маеть, робити иму)*, будучы складаны II *(будета купила)*. Формы аорыста і імперфекта вельмі рана страціліся і былі заменены перфектам. Перфект са складанай формы ператварыўся ў простую (замест *ѥсмь неслъ* сталі ўжываць *неслъ*), урэшце формы перфекта сталі формамі прошлага часу ў сучасным выглядзе. Ад даўнейшага плюсквамперфекта засталіся рэшткі т. зв. даўномінулага часу ў сказах з нерэалізаваным вынікам: *пайшоў быў, але вярнуўся; пасадзілі былі кветкі, але яны завялі*. Сляды будучага складанага I засталіся ў гаворках у выглядзе форм *рабіцьму, казацьму, стаяцьмеш*, зрэдку ўжываюцца і ў мастацкай літаратуры з пэўнымі стылістычнымі мэтамі: *I пісацьмем вершы не пяром мы,— кіпарысам на лістах зары* (П. Панчанка). Будучы складаны II знік амаль зусім і толькі зрэдку сустракаецца ў некаторых заходнебеларускіх гаворках *(усё будзе прапала)*. Шырокае выкарыстанне яго ў старажытным беларускім пісьменстве паказвае, што пісьмовая мова таго часу была аддалена ад жывой народнай асновы.

Словаўтварэнне дзеясловаў надзвычай багата прэфіксамі. Гэта асноўны спосаб утварэння новых дзеясловаў: *ехаць — аб'ехаць, выехаць, даехаць, з'ехаць, заехаць, наехаць, недаехаць, паехаць, пад'ехаць, пераехаць, прыехаць, уехаць, уз'ехаць* і г. д. Суфіксацыя, прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне, словаскладанне *(рыбачыць, сушыць, аднавіць, каласіцца, самаўхіліцца, відазмяняць)* характарызуюцца значна меншай актыўнасцю ў сучаснай мове.

У сказе дзеяслоў дапасуецца да назоўніка ці займенніка (калі яны з'яўляюцца дзейнікам) і кіруе назоўнікам ці займеннікам (калі яны выконваюць ролю даданых членаў сказа). *Вучань чытае кнігу:* дапасаванне — *вучань чытае*, кіраванне — *чытае кнігу*. Здольнасць кіраваць скланяльнымі часцінамі мовы, якія выступаюць у ролі дапаўнення або акалічнасці,— важны сінтаксічны паказчык дзеяслова, уласцівы ўсім яго формам без выключэння. Кіраванне можа быць непасрэднае, без прыназоўніка *(будаваць дом, камандаваць дывізіяй)* або апасродкаванае, з пэўным прыназоўнікам *(працаваць з сябрам, адпачываць перад дарогай)*. У апошнім выпадку кіраванне значна аслабленае, яно можа кваліфікавацца як прыназоўнікавае прымыканне. Асобныя дзеясловы могуць адначасова кіраваць двума-трыма назоўнікамі *(чакаць таварыша на калідоры, пісаць эцюды акварэллю на паперы)*.

Асноўная сінтаксічная роля дзеяслова, як ужо гаварылася,— быць выказнікам. Інфінітыў, дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе могуць выступаць і ў ролі іншых членаў сказа: дзейніка, азначэння, дапаўнення, акалічнасці.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; Мацкевіч Ю. Ф. Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове. Мн., 1959; Шуба П. П. Дзеяслоў у беларускай мове. Мн., 1968; Яго ж. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987; Булыка А. М., Жураўскі А. І., Крамко І. І. Гістарычная марфалогія беларускай мовы. Мн., 1979; Жураўскі А. І. Дзеяслоў // Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст. Мн., 1988; Янкоўскі Ф. Гістарычная граматыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1989.
*П. П. Шуба.*

## ДЗЯРЖАЎНАЯ МОВА

Кожная мова можа ўжывацца ў розных сферах жыцця грамадства. Гэтыя сферы найперш падзяляюцца на дзве буйныя часткі — афіцыйную і побытавую. Афіцыйнай (ад лац. officialis звязаны з урадам, з пасадай) называюць мову, на якой працуюць дзяржаўныя і адміністрацыйна-гаспадарчыя органы, грамадскія арганізацыі, установы навукі, культуры, службы быту, гандлю. На афіцыйнай мове вядзецца навучанне і выхаванне ў сістэме адукацыі. Калі ж статус афіцыйнай мовы замацоўваецца і адлюстроўваецца ў спецыяльных заканадаўчых актах, яна становіцца мовай дзяржаўнай. Дзяржаўнасць мовы — гэта юрыдычна замацаваны і рэгламентаваны парадак яе выкарыстання ва ўсіх або ў пераважнай большасці разгалінаванняў афіцыйнай сферы грамадскіх зносін. Што ж датычыцца прыватных моўных узаемадачыненняў людзей, а ў пэўнай ступені і выбару імі мовы зносін з дзяржаўнымі органамі і ўстановамі, з рознымі грамадскімі арганізацыямі, то гэта было, ёсць і застаецца асабістай справай грамадзян. Такім чынам, паняцце «дзяржаўная мова» звязана з мэтанакіраванай, усвядомленай моўнай палітыкай дзяржавы, з распрацоўкай юрыдычна-прававых нормаў у галіне моўных зносін, а паняцце «афіцыйная мова» — з практыкай, з традыцыямі выкарыстання моў у пэўным грамадстве і з рэальным размеркаваннем паміж імі асобных сацыяльных функцый. Наданне пэўнай мове статуса дзяржаўнай — акт выключнай нацыянальна-гістарычнай і нацыянальна-культурнай значнасці. Яго прыняцце або непрыняцце, сам ягоны характар заўсёды вызначаюцца канкрэтнымі абставінамі жыцця грамадства, асаблівасцямі яго гісторыі, суадносінамі паміж мона- і полінацыянальнасцю, станам і ўзроўнем культуры, эканомікі, палітыкі. Варта адзначыць, што афіцыйная мова не абавязкова набывае статус дзяржаўнай, але дзяржаўная мова не можа не прайсці этапу афіцыйнага ўжывання.

Дзяржаўны статус мовы грунтуецца на арганізацыйных, кадравых, матэрыяльна-тэхнічных, культурна-асветных і іншых дзяржаўных мерах, прадугледжвае сістэму прававой аховы мовы на тэрыторыі адпаведнага дзяржаўнага ўтварэння, а таксама забяспечвае яе існаванне і развіццё ў асяродках суайчыннікаў за яго межамі. Наданне мове дзяржаўнага статуса — усвядомлены сацыяльна-палітычны акт, скіраваны сваёй канчатковай мэтай на захаванне і развіццё нацыянальнай мовы, на зберажэнне яе ад заняпаду і забыцця. Сусветная цывілізацыя не ведае выпадкаў занядбання дзяржаўных моў пры захаванні дзяржавы, затое гісторыя сведчыць, што мовы знікаюць, калі выходзяць з ужытку ў грамадскіх сферах жыцця. Патрэба ў дзяржаўным моўным рэгуляванні ўзнікае пераважна тады, калі ў мовы народа, які даў найменне дзяржаўнаму ўтварэнню, ёсць мова-канкурэнт. Менавіта таму заканадаўства некаторых монанацыянальных краін не надае мове карэннага насельніцтва дзяржаўнага статуса.

З часу, калі на беларускіх землях узніклі дзяржаўныя ўтварэнні — княствы Полацкае і Тураўскае, Наваградскае і Вялікае княства Літоўскае,— мова тутэйшай людской супольнасці мела шырокі ўжытак у асяроддзі ўладароў і вайскоўцаў, раменікаў і гандляроў, паляўнічых і хлебаробаў, вернікаў і святароў, манахаў-кніжнікаў і шкаляроў... Калі дзіця садзілася за кнігі, рукапісныя або пазней выдадзеныя Ф. Скарынаю або С. Будным, калі яно слухала матчыны песні і старажытныя казкі, калі летапісец выводзіў літары на пергамене, калі ваяр-абаронца прыспешваў на покліч Пагоні баявога каня, а ратай выходзіў у поле — усе супольна рабілі адну справу: служылі радзіме, бацькаўшчыне, і заўсёды на вуснах народа-творцы гучала мова родная,

матчына, беларуская — у высокім сэнсе дзяржаўная.

З цягам часу ў Вялікім княстве Літоўскім, акрамя афіцыйнай (з 1588 г. дзяржаўнай) старабеларускай, у грамадскім ужытку сталі пашырацца лацінская, польская і іншыя мовы. Узнікла патрэба ў дзяржаўным рэгуляванні моўных працэсаў. І тады ў выдатным помніку эпохі Адраджэння — Статуце Вялікага княства Літоўскага (рэд. 1566 і 1588 гг.) — старабеларуская мова была абвешчана, гаворачы па-сучаснаму, дзяржаўнай, найперш мовай законаў і справаводства: «А писар земский маеть по-руску (г. зн. па-старабеларуску.— Я. Ц.) литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншым езыком и словы» (Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Мн., 1989. С. 140). Аднак з 1697 г. старабеларуская мова перастала быць афіцыйнай, была выключана з ужытку ў справаводстве рашэннем кіруючых колаў Рэчы Паспалітай — дзяржавы, у якую на федэратыўнай аснове ўваходзіла тады Вялікае княства Літоўскае. Пазней (у 1867 г.) і царскім урадам беларускае друкаванае слова было забаронена, як і наогул ужыванне беларускай мовы ў школах, установах культуры і інш., што тлумачылася імкненнем пазбавіць беларускі народ не толькі самастойнага дзяржаўнага, але і нацыянальна-культурнага жыцця, а значыць і будучыні.

Такім чынам, занядбанне беларускай мовы, якое пачалося з паступовага і няўхільнага абмежавання яе грамадскіх функцый у 17—19 і пачатку 20 стагоддзя, суправаджалася частковай, а пазней поўнай стратай беларускімі землямі дзяржаўнасці.

Народ жа на роднай мове гаварыў, спяваў песні, складаў казкі, мудрыя загадкі, дасціпныя прыказкі — тварыў вялікую вусную літаратуру, у якой роднае слова ззяла ўсімі колерамі вясёлкі, выказвала думы, жаданні, пачуцці чалавека працы, адлюстроўвала востры розум народа, яго багаты духоўны свет, прыгажосць душы, шматвяковы жыццёвы вопыт.

На працягу 19 ст. на беларускай мове выдаваліся нелегальна або для абмежаванага ўжытку кнігі, перыядычныя выданні, а пасля рэвалюцыі 1905—07 гадоў беларускія асветнікі і майстры прыгожага пісьменства сталі займацца выдавецкай дзейнасцю — і гэта садзейнічала захаванню беларускага слова і фарміраванню беларускай літаратурнай мовы.

У 1918 г. з абвяшчэннем Беларускай Народнай Рэспублікі і ў перыяд пасля 1919 г., калі беларускае дзяржаўнае ўтварэнне пачало актыўна ажыццяўляць свае ўладныя паўнамоцтвы, з усёй непазбежнасцю паўстала пытанне пра дзяржаўную мову на Беларусі. Неўзабаве сацыяльныя рамкі ўжывання беларускай мовы ў заканадаўчым парадку, грунтоўна, з усёй дакладнасцю вызначыла прынятая ў 1927 г. VIII Усебеларускім з'ездам Саветаў другая Канстытуцыя БССР (артыкул 22): «Дзякуючы значнай перавазе ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы насельніцтва беларускай нацыянальнасці, беларуская мова выбіраецца, як мова пераважная, для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесійнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі».

У 1930—80 гг. у Беларускай ССР руская мова, займаючы прывілеяванае, пануючае становішча ў грамадскім жыцці, фактычна выконвала ролю дзяржаўнай мовы. Беларуская мова, неапраўдана выцесненая з грамадскага ўжытку, паступова адыходзіла да той мяжы, за якой пачынаецца нябыт. Таму заканамернай была пастаноўка пытання аб прыярытэтным развіцці беларускай мовы ў Беларусі як мовы карэннага насельніцтва, як мовы суверэннага дзяржаўнага ўтварэння.

Дзяржаўны статус мовы карэннага этнасу не вядзе да абвастрэння канкурэнцыі моў і культур народаў, якія супольна жывуць у дзяржаве, а ўзмацняе іх узаемадзеянне, забяспечвае вольнае развіццё і творчае ўзаемапераймание, гарманізацыю гэтых працэсаў і з'яўляецца асновай культурнага будаўніцтва ў дэмакратычнай дзяржаве. Без ведання мовы карэннага насельніцтва той ці іншай рэспублікі прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей іх жыццё ў братняй супольнасці народаў нельга лічыць паўнацэнным. Для беларусаў як карэннага этнасу ў рэспубліцы таксама не абыякавы і лёс моў усіх нацыянальных супольнасцей у агульным дзяржаўным доме.

Дзяржаўнасць мовы спрыяе і забеспячэнню правоў кожнага прадстаўніка карэннага этнасу і ўсёй яго супольнасці (калі нават апошні не з'яўляецца механічнай большасцю насельніцтва на яго тэрыторыі) на развіццё не толькі яго мовы, культуры, асветы і інш., але і нацыянальнай дзяржаўнасці і ў канчатковым выніку сцвярджае права народа на існаванне. Таму як сацыяльна-прававая катэгорыя тэрмін «дзяржаўная мова» цесна звязаны з паняццем нацыянальнага суверэнітэту. Ва ўсім свеце дэмакратычная практыка ўжывання ў якасці афіцыйных (а часам і дзяржаўных) нацыянальных моў супольнасцей, якія спрадвеку жывуць на сваіх дзяржаўна-этнічных тэрыторыях, грунтуецца менавіта на прызнанні суверэнітэту народаў: сам факт існавання этнасаў, іх шматвяковая гісторыя і самабытная культура ствараюць гэтаму перадумовы.

У нацыянальна-дзяржаўным утварэнні ў якасці дзяржаўнай прымаецца мова яго карэннага насельніцтва, а носьбітам усіх астатніх моў гарантуецца права свабоднага карыстання імі ў розных прыватных сферах зносін. Афіцыйных моў можа быць столькі, колькі асобных нацыянальных груповак уваходзіць у склад грамадства. Так, на Беларусі афіцыйна — у школе, царкве, нацыянальных установах культуры і г. д.— ужываюцца польская, татарская, яўрэйская, руская мовы.

Мова — не толькі сродак зносін. Яна — душа народа, аснова яго культуры. Пакуль жыве мова, жыве народ. Выбіраць мову зносін — права асобнага чалавека. Але такога права пазбаўлены народ, бо страта нацыянальнай мовы вядзе да знікнення яго як самабытнай этнакультурнай супольнасці. Кожная мова — гэта неацэнны скарб, які разам з тым належыць не толькі аднаму народу, а ўсяму чалавецтву, духоўна ўзбагачаючы яго.

Мова фарміруе асобу, з'яўляецца асновай самасвядомасці і духоўнасці чалавека. Без адчування за спінаю грамады суайчыннікаў, аб'яднаных любоўю і павагаю да ўсіх нацыянальна-духоўных скарбаў, у тым ліку і мовы, чалавек можа страціць сэнс свайго існавання і пачуццё жыццяўстойлівасці. У мове схаваны «генетычны код» духоўнасці народа, і, авалодваючы моваю, мы «чытаем» сваю гісторыю, разумеем продкаў, ствараем сённяшнюю рэчаіснасць, крочым у будучыню.

Гонар і абавязак усіх — шанаваць і любіць мову свайго народа, садзейнічаць яе развіццю і росквіту, а таксама паважліва ставіцца да моў іншых народаў. Выхаванню гэтых высакародных грамадзянскіх якасцей чалавека, асобы і служыць прыняты ў 1990 г. закон, які надаў беларускай мове ў Рэспубліцы Беларусь статус дзяржаўнай (гл. **Закон «Аб мовах у Беларускай ССР»**).

*Я. А. Цумараў.*

## ДУБОЎКА УЛАДЗІМІР МІКАЛАЕВІЧ

Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка нарадзіўся 15 ліпеня 1900 г. ў в. Агароднікі Пастаўскага раёна. У 1918 г. скончыў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю, у 1925 г.— Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава. Працаваў настаўнікам, інспектарам Наркамата асветы РСФСР. Быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», рэдактарам часопіса «Беларускі піянер». У ліпені 1930 г. рэпрэсіраваны. У 1932—57 гг. жыў і працаваў на розных работах у Кіраўскай вобласці, Чувашыі, Грузіі, Краснаярскім краі. У канцы 1950-х гадоў рэабілітаваны. Друкавацца пачаў з 1921 г. На працягу 1923—27 гг. выдаў 5 паэтычных кніг, выступаў у друку з артыкуламі, прысвечанымі культуры мовы.



У 1962 г. стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы за зборнік вершаў «Палеская рапсодыя» (1961). Напісаў аповесці «Жоўтая акацыя» (1967), «Ганна Алелька» (1969), зрабіў паэтычную апрацоўку шматлікіх народных казак і легендаў. Перакладаў творы Дж. Г. Байрана, У. Шэкспіра, У. Сыракомлі, іншых паэтаў. Памёр 20 сакавіка 1976 г.

Пачатак творчай працы У. Дубоўкі прыпаў на першыя паслярэвалюцыйныя гады — драматычны час карэннай ломкі стагоддзямі ўсталяванага ладу жыцця. Многія прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі ў той перыяд імкнуліся пераасэнсаваць ролю духоўнай спадчыны ў будаўніцтве новай культуры. Дубоўка прытрымліваўся перакання, што народная творчасць, рупна збіраная вякамі, не траціць пазнавальнай, філасофскай і эстэтычнай вартасці. У свае творы ён уводзіў як арганічны кампанент народныя казкі, паданні, падпарадкоўваў іх вырашэнню мастацкай задачы. З вуснай народнай творчасці паэт чэрпаў тэмы, вобразы, думкі, распрацоўваў на яе аснове ўласную паэтыку, узбагачаў і шліфаваў сваю мову. У паэтычным пераствартэнні твораў фальклору Дубоўка дасягнуў натуральнасці і чысціні гучання роднага слова.

У мастацкім пошуку Дубоўка прытрымліваўся тых прынцыпаў і шляхоў, якія былі вызначальнымі для творчасці народных песняроў Беларусі. Мова Янкі Купалы, Якуба Коласа, іншых мастакоў слова, якая на час выступлення паэта ў беларускай літаратуры ўзнялася на высокі ўзровень, стала грунтам яго стылю. Найперш звяртае на сябе ўвагу багацце лексікі і фразеалогіі, выкарыстанай Дубоўкам. Засвоіўшы лексічныя рэсурсы сваіх папярэднікаў і сучаснікаў, ён папоўніў іх галоўным чынам з народных крыніц. Плённай і выніковай была таксама індывідуальная моватворчасць паэта.

Абсалютная большасць слоў і фразеалагізмаў, ужытых у творах Дубоўкі, належыць да актыўнага запасу беларускай мовы, шмат выкарыстаных ім слоў за апошнія дзесяцігоддзі пашырылася ў літаратурным ужытку: *агорацъ, аберуч, апантаны, ашчаперыць, веславаць, водар, волкі, вохкі, дойлід, збочыць, збунтаваць* (змяшаць, пераблытаць), *знічка, імклівасць, наканаваны, нелюдзь, непрыдатны, не ставаць, праставаць, столка, строма, талака, удубальт, шэрань* і інш. Паказальна, што ў 1920-я гады выдавецтва прапанавала аўтару даць тлумачэнне да некаторых з гэтых слоў (зб. «Трысцё», 1925). Разам з тым нейкая частка лексічных адзінак, якія ўжываў Дубоўка, не фіксуецца сучаснымі слоўнікамі або даецца ў іх з паметаю «ўстарэлае»: *гаспода, да сыці, дольнік, дрвіва, дэсань, здзірства, змуста, зыск, кон* (лёс, наканаванасць), *кроза, кунежыць, мапа, могут, навала* (навальніца), *напой, найда, парахно, прачкарня, сает, святарны, сквіл, травень, трунак, ублагаць, цын, чын* (дзейнасць). Зварот пісьменніка да «старых» слоў вымагаўся патрэбай адлюстраваць тагачасныя і даўнейшыя рэаліі, імкненнем максімальна скарыстаць моўныя скарбы, асабліва тую іх частку, якая забяспечвае маўленчадухоўную пераемнасць пакаленняў, вызначае самабытнасць беларускай мовы. Такая пазіцыя Дубоўкі была сугучная агульнаму працэсу інтэнсіўнага ўзбагачэння літаратурнай мовы, выпрацоўкі яе стыляў. Аднак у 1930-я гады з пэўных прычын (гвалтоўнае адхіленне шматлікіх пісьменнікаў, дзеячаў навукі і культуры ад творчай працы, тэндэнцыя кваліфікаваць самабытнае ў мове як нацыяналістычнае) затармазілася натуральнае развіццё літаратурнай мовы, перавага стала аддавацца запазычанням, калькам. Цяпер, у сувязі з павышэннем цікавасці беларускага народа да сваёй гісторыі, абуджэннем нацыянальнай свядомасці ўзрастае функцыянальная актыўнасць некаторых вышэйпададзеных лексем.

Паасобныя словы і фразеалагізмы, ужытыя Дубоўкам, перадаюць каларыт любых паэту гаворак Пастаўшчыны і Мядзельшчыны: *адляйцаць, ажыргаць, астрыжонак, брыж, буталь, валосы, водзыўкі, зблоціць, калюжа, лактаць, нажутка, ляха, нурцаваць, пагурачак, пастыр, пашыбень, разыгранка, райгеня, даць алалаху, трапіць у клямар, цікацца* і інш.

Бясспрэчна, Дубоўка даражыў даўнім словам — і літаратурным, і дыялектным. Але ні ў якім разе яго нельга западозрыць у апалагетыцы старога, аджылага ці ў нацыянальнай замкнёнасці. Ужо ў 1920-я гады мова Дубоўкі была адкрытая для слоў і выразаў з кніжна-літаратурнай сферы: *аванпост, акорд, арбіта, ват, вальфрамава ніць, віват, гордзіеў вузел, дэпеша, крэда, мажор, мажорны, мінор, мінорны, нонсэнс, перспектыва, сігнатура, Тамаш няверны, эпітаф, экран, эра.*

У моры слоў беларускай мовы ёсць шмат такіх, якім паэт аддае перавагу (пры наяўнасці лексічных варыянтаў, сінонімаў), якія ўжывае досыць часта: *адлюстровак, бойны* (пра дарогу), *вядомка* (вестка), *вялізманы, ільсніцца, квет, двору* (дамоў, дома), *здэтанаваць* (збянтэжыць), *зімны* (халодны), *летуцець, лятунак, матка* (маці), *наземіць* (апускаць на зямлю), *наземіцца, наступны* (будучы), *нечаканка, няўгойны* (незагойны), *няўшчунны, паліва, памога* (дапамога), *прымружаны, рата, спогад, струджаны, супакой, цягнік* і інш. Многія з гэтых слоў выконваюць найперш мастацкапаэтычную функцыю. Так, слова *пялёсткі* ў творах Дубоўкі набыло значэнне сімвала і абазначае хуткаплыннасць, мінучасць людскога жыцця: *Адцвітае, усё адцвітае — // і гады, і хвіліны, і кветкі. // Маладосць ты мая залатая, // і цябе панясе так па ветру. // Разлешся пялёсткамі песень // ад мяне ты на тыя даліны* («Палыны пасівелі на ўзгорку»); *На пяску пялёсткі ад жыцця // шастаюць, шапочуць, шалясцяць* («Васількі збіраюць, васількі»). Невыпадкова зборнік апавяданняў-успамінаў Дубоўка назваў «Пялёсткі» (1973).

Няцяжка заўважыць прыхільнасць паэта да слоў, якія абазначаюць колеры: *кармазынавы, кармазынавасць, пазлацісты, пурпуровы, ружовы, ільсніцца, ірдзеніць* і інш. З дапамогай гэтых слоў дасягаецца і вобразнасць мастацкай мовы, і яе меладычнасць, напеўнасць: *Пурпуровасць каліны, пунсовасць, // кармазынавасць дзікіх шыпшын. // Ці не вам у таемныя сховы // людзі радасць сваю аддалі?* («Неба сіняе, сіняе вельмі»).

У сістэме сродкаў мастацкага паказу прыкметнае месца займаюць аўтарскія наватворы. Дзякуючы празрыстасці ўтваральнай асновы і тыповасці мадэлі амаль кожны наватвор можна збольшага зразумець і без кантэксту: *агнявейны, арлінавокі, арфазвоннасць, брыльянціцца, водарыць, дабратканы, даляведнея* (вочы), *дамэтна, ёсцьны, жальбаваць, жываедца, заістужыць, закапронены, запрыгоршчыць, ігліцць, імклівіць, красамоўца, крынічыць, крышталіць, надводдзіцца, нябеснакрылы, паветрыцца, сітаваць, скампакціцца, смутнагляд, смутнавокі, ставокі, ультраляпа, ускоўдрыць, успаветраны, устроміць, штогодзіць, шумлівазвонны, яснавейнасць.* Найбольшая колькасць ужыванняў адзначана ў слоў *імклівіць, крышталіць, паветрыцца, ускоўдрыць.* Некаторыя наватворы Дубоўкі ўвайшлі ў літаратурную мову: *адлюстроўваць, ажыццяўленне, дабрабыт, мілагучны, мэтазгодны, цемрашалец.*

Марфалогія і сінтаксіс тэкстаў Ду-

боўкі адлюстроўваюць граматычны лад сучаснай беларускай мовы. Разам з тым у яго творах шмат індывідуальнага, што абумоўлена глыбінёй і шырынёй сягання пісьменніка ў беларускую нацыянальную мову, яго моўным, эстэтычным густам.

У Дубоўкавых творах часта сустракаецца клічная форма назоўнікаў: *Адаме, Баяне, браце Сцяпане, Ветру, дружа, зямляча, квеце, княжа, пане браце, суседзе, сыне: Свеце мілы мой! Хто ж бы тут толькі стрываў!* («Перад іменем Любові»); *Іграй, іграй, мой дружа цымбалісты, // каб дні вясны маёй са струн зляталі* («Паляжам мы»). Паслядоўна ўжываюцца зборныя назоўнікі *праменне, каменне, крылле,* зафіксаваны формы *груддзе, колле, квецце, струменне.*

Пры відавочнай перавазе нарматыўных канчаткаў назоўнікаў сустракаюцца склонавыя формы, якія ідуць з дыялектнай мовы або адлюстроўваюць нормы, што існавалі да рэформы правапісу 1933 г.: *пасля дожджу, за бокі ўзяўся, на палёх жаўтагрудых, у верасох, у вочах, у горах; балаты, кляны.*

У творах Дубоўкі, напісаных у розны час, паралельна ўжываюцца варыянтныя канчаткі роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў (а таксама парадкавых лічэбнікаў, займеннікаў) жаночага роду *-ай (-яй), -ае (-яе): Павевы невыказнае асенняй пекнаты // прынеслі радасць з неспакоем* («І пурпуровых ветразей узвівы»); *У цэнтры гэнае цікавае і багатае вітрыны стаяў адзін сціплы малюнак* («Пялёсткі»).

Аўтарскі стыль Дубоўкі адметны шырокім выкарыстаннем прыналежных прыметнікаў: *аўтарава* (прамова), *дзяўчыніны* (слядочкі), *жанчыніна* (цела), *дэльфінавы* (акрайкі), *Коласавы* (словы), *месяцавае* (праменне), *паэтава* (сэрца), *светава* (столь), *Сонейкаў* (палац), *сонцавы* (дзеткі), *хлапцова* (сэрца).

Што да кароткіх якасных прыметнікаў, то яны адзінкавыя. Гэта адпавядае тэндэнцыі літаратурнай мовы да выцяснення кароткіх формаў: *Ад сонца яснага яна ўся чорна // і лёсу горкаму пакорна* («Чые рукі прыгажэйшыя?»); *Сустракаюць маладу вясну* («Снег знікае»); *Не ўблагае ніцы лозы // аніводзін вецер* («Выходзіла дзеўчына»).

У мове Дубоўкавых твораў паўней, чым гэта паказваецца граматыкамі, выяўлены сродкі выражэння ступені якасці. Апрача формаў тыпу *разумнейшы за (ад) іх, разумнейшы, чым яны, найразумнейшы, самы разумны,* ужываюцца спалучэнні слоў (назоўнікі, займеннікі) з прыназоўнікам *над: Ты над яго дужэй сама* («Хто дужэйшы»); *Куды ні паглянь — над красою краса* («Памалу, паціху зайшоў я...»); *Хоць ганарыстымі яны // былі тады усе паны, // але вось гэты — над усіх* («Вяльможны Пых»). Заўважым: у формах вышэйшай і найвышэйшай ступеняў націск — на галосным суфікса *-ейш-: Далёкія і блізкія сябры // Чакаюць прыдатнейшае пары* (пераклад паэмы Дж. Г. Байрана «Бронзавы век»); *Моц магутнай тайгі // і яшчэ магутнейшай зямлі* («Памалу, паціху зайшоў я...»).

Уплыў дыялектнай мовы адбіўся на формах дзеяслова. Трапляюцца асабовыя канчаткі, характэрныя для паўночна-ўсходняга дыялекту і часткі сярэднебеларускіх гаворак: *паберыць усіх; усіх не паберыш, забераць, пасыпяць, трапечыць; у вочы колець.* Такіх ужыванняў болей было ў творах, апублікаваных у 1920-я гады. У наступных выданнях аўтар выправіў іх паводле сучаснай нормы.

Асабовыя формы дзеясловаў *ліць, заліць, ліцца, віць, віцца* захоўваюць у корані галосны *і: ліюць, ліецца, залію, віецца, віюцца.* Паэт лічыў такія формы болей мілагучнымі, чым *льюць, льецца, уюцца* і пад.

Дубоўка прыняў у свой паэтычны слоўнік формы *жані, аджані, жане, выжане* (ад дзеясловаў *гнаць, адагнаць, выгнаць*), уласцівыя паўднёва-заходняму дыялекту: *Ад твараў стрыджаных тугу і смутак // я аджану і на палёх рассыплю; Жані тугу на шчырыя бары* («І пурпуровых ветразей узвівы»). Магчыма, гэтыя формы таксама прываблівалі паэта сваім гучаннем. З гаворак паўднёвага захаду Беларусі ўзята архаічная форма будучага часу: *Вітацьму неба, воды ўсе* («Штурмуйце будучыні аванпосты!»); *Гэта ж народная сіла ўставала; // вечна яна існавацьме на свеце* («Крычаўская спакуса»); *На цябе смяюцца людзі. // Што рабіцьмеш, вось пытанне!* («І пурпуровых ветразей узвівы»). У мове мастацкай літаратуры нашых дзён назіраецца пашырэнне такіх формаў.

Яскравая граматычная рыса, вытокі якой у мясцовых гаворках,— рэгулярнае ўжыванне дзеепрыслоўяў з суфіксамі *-ўшы,* якія значэннем супадаюць з дзеепрыслоўямі на *-учы (-ючы), -ачы(-ячы): Далёка пойдзе песня, // не знайшы берагоў* («Ідзе май»); *Меншы сын, не чуўшы быццам, // адчыніў раптоўна дзверы* («Хто шукае — той знаходзіць»).

Павучальны вопыт Дубоўкі пры ўжыванні дзеепрыметнікаў. Ён абыходзіцца без неўласцівых беларускай мове дзеяслоўных формаў з суфіксамі *-уч-(-юч-), -ач-(-яч-).* А са значэннем рускіх дзеепрыметнікаў з суфіксамі *-ем-, -ім-* ужывае, услед за Янкам Купалам, формы з суфіксам *-ан-/(-ян-). Вырас так і наш музыка, // калыханы роднай маткай* («І пурпуровых ветразей узвівы»); *Вецер звее ў ніцы лозы // тугу, што йдзе за небакрай, // і неспыняныя ўсе слёзы* («Тугой спавіты небакрай»); *Кожнай драбнічкай ты варта пашаны, // кожнае слова вякамі створана* («Родная мова, цудоўная мова!»).

У сінтаксісе твораў Дубоўкі выявіліся агульнамоўныя заканамернасці пабудовы словазлучэнняў і сказаў. Вось некаторыя словазлучэнні, у якіх выражаюцца розныя адносіны — аб'ектныя: *Нехта **сочыць праўду** ў свеце* («І пурпуровых ветразей узвівы»); *Дадуць на стайні бізуной, // каб не **раўняўся да паноў*** («Вяльможны Пых»); *Нялёгка змагацца з нядоляй,— // мне цяжка **глядзець гаспадаркі*** («Штурмуйце будучыні аванпосты!»); часавыя: *Ну, Лісіца **кожным часам // ходзіць** з баявым прыпасам* («Крот, Мурашка і Лісіца»); *Пра патэльню мы і не **паклапаціліся за добрым часам*** («Патэльня з юшкі»); *Вось аднойчы, нейкім святам // **пры сняданні** тата **кажа**...; Ведаю, што і я памру, як і ўсе, // што **па смерці** нічога **не будзе трэба*** («Хто шукае,— той знаходзіць»); мэтавыя: ***Пайшоў** Цікаўны **па ваду;** // за локці тры вада бруіцца* («Кругі»); *Пасля — у атаку, вядома, // **паслалі** яго без патронаў: // **па шчасце** высокаму дому, // **па славу** для царскага трону* («Камсамолка Ганна»).

Спецыфіку беларускай мовы адлюстроўваюць і такія звароты (у сказах выдзеленыя): *Вось таму узор цудоўны // і **да зорачкі падобны,** // і **да сініх васілёчкаў,** // і **да кветак** у садочку* («Тураўская Галя»); *Медуніц нашых не пазнаць: // вялікія, **па кубку добрым*** («Кругі»); *Грукаталі над імі, ля іх перуны // не **адзін па адным,** але стосам* («Перад іменем Любові»); ***У кожным разе** — адрас у лісце* («Кругі»); *Сягоння павінны мы **дацъ дапамогу*** («Маленькая гераіня»); *А гэты Пятро мне **прэтэнзію даў*** («І смех, і грэх»).

У творах Дубоўкі часта сустракаюцца сказы з прыслоўем *затым,* а таксама са злучнікамі *затым, каб* і *затым, што: З грузінам жыў, як родны брат, // таксама жыў з сібіракамі. // Затым сяброў усюды шмат* («Нам некалі са смуткам знацца...»); *Тугой затым ён сэрца надужаў, // што доўг не ўвесь адбыў Айчыне* («Якое шчасце спатыкаць усход»); *Я да цябе затым прыйшоў, // каб ты шляхі нам асвяціла* («Кругі»).

У творах Дубоўкі нямала трапных, афарыстычных выслоўяў: *На свеце самае святое // усё, што праца набыла* («На аўтобусным вакзале ў Кобрыне»); *На ліхое нямнога патрэбна хвілін* («Пастаўская партызанка»); *Людзі любяць душу прасавацъ, // калі гэта душа чужая* («Пальцы жоўтых кляновых лістоў»); *Жыццё закон нязломны мае: // ніколі праўда не ўмірае* («Ніколі праўда не ўмірае»).

Дубоўка дасканала валодаў паэтыкай літаратуры і фальклору, знаходзіў свае сродкі мастацкага выказвання. Верш з метафарычнай назвай «І пальцы кляновых лістоў» будуецца на выкарыстанні метафар і перыфраз: *Клён у вокны забразгатаў, // адгук-*

*нулася каняю рэха. // Месяц рваў арэхі з куста, // раскідаў над сусветам арэхі, // Яны ў вайне блакітнай ляглі, // сумавала ў даліне ляшчына.* Зоркі, як вобразна кажа паэт,— «арэхі», неба — «блакітная воўна». У вершы «Як сон, адышла...» неба названа інакш — «пожня васільковая»: *А месяц вандруе, // на пожні глядзіць // ды з пожні свае васільковай.* Месяц не толькі вандруе, але і «вяслуе на зоры». А вось як надыходзіць раніца, як змяняецца цемра змрокам, змрок — сутоннем: *Чорныя, сінія, шэрыя вочы // золак павольна адплюшчыў* («Чорныя, сінія, шэрыя вочы...»). Майстэрства будаваць перыфразу бачым у страфе: *Бацька сыну нічым не паможа: // Трэці год ён сябруе з вайной. // Ён далёка ваюе, а можа // і з зямлёй пасябруе сырой* («Студэнт»). Перыфраза *сябруе з вайной* выступае ў сінанімічным радзе з дзеясловам *ваюе.* Ёсць выпадкі, калі ў адным творы прадмет мае некалькі вобразных назваў. У казцы «Дзівосныя прыгоды» гусі за тое, што нішчылі пасеяны гарох, атрымалі найменні *крылатая бяда, крылатыя вяльможы, зладзеі лятучыя,* а таксама *пакручастыя шыйкі, летуны.* Умела карыстаецца Дубоўка лексічнымі сінонімамі: *Ці багацця бракуе табе, // ці упартасці сціплае мала?* («А лясы шалясцяць, шалясцяць»); *Калейка прыходзіць // выходзіць другому. // Сярэдняму брату // чарговая рата // ісці ў падарожжа* («Тры браты»).

Вялікую ўвагу звяртаў Дубоўка на гукавую арганізацыю мовы: *У змроку лясы шалясцяць,— // то шастае восені шата* («Штурмуйце будучыні аванпосты!»). Шум лесу фізічна адчувальна перадаецца дзякуючы паўтору зычных гукаў [с], [ш] (алітэрацыя).

Пра свой заўсёдны клопат — пошук слова — Дубоўка не раз пісаў у вершах і паэмах: *Ці знайду шурпатазвычайныя словы, // летуценні заіступ жыць шлях ці знайду* («Шуканне слова»); *Колькі песень у сэрцы нясу! // Вось каб так праспяваць іх, як думаю, // вось каб так, як кладуцца яны* («Не кажу — запявайце, цымбалы»); *А здаецца, не выстарчыць слоў, // каб сказаць пра знаёмае добра* («На родных прасторах»).

У 1920-я гады Дубоўка апублікаваў некалькі артыкулаў, асноўны змест якіх — праблема мілагучнасці мовы, узбагачэнне слоўніка літаратурнай мовы, удасканаленне беларускай графікі. Дубоўка распрацаваў, як ён сам пісаў, «асновы развіцця мовы». У адпаведнасці з імі, мясцовыя словы можна і трэба ўводзіць у літаратурную мову, калі яны: а) пашыраны на значнай частцы беларускага этнаграфічнага абшару; б) могуць ці выразіць паняцце, на якое няма адпаведнага слова ў літаратурнай мове, ці ўзбагаціць гэтае паняцце новым адценнем; в) маюць сувязь у гучанні і пабудове з рэштай слоў. Як прыклад такіх слоў разглядаецца *дойлід.* Прааналізаваўшы шмат якія з'явы і факты жывой народнай мовы і фальклору, Дубоўка выявіў тыя фанетычныя і марфалагічныя сродкі, якімі дасягаецца мілагучнасць мовы: прыстаўныя галосныя, прыстаўныя зычныя, варыянтныя канчаткі прыметнікаў жаночага роду *-ай, -ае* і інш.

Дубоўка лічыў неабходным увесці асобныя літары на абазначэнне спецыфічных беларускіх гукаў *дз, дж.* Гэта спрыяла б больш паспяховаму іх вывучэнню і правільнаму вымаўленню. Паводле праекта Дубоўкі былі адліты адмысловыя літары для гэтых гукаў, з якімі нядоўгі час друкаваліся асобныя матэрыялы ў часопісе «Узвышша».

Усё жыццё Дубоўка працаваў над узбагачэннем роднай мовы, услаўляў яе прыгажосць і сілу. Павышэнню эстэтычнай годнасці жывога народнага слова спрыялі яго таленавітыя пераклады твораў сусветнай класікі. Вось, напрыклад, 54-ы санет Шэкспіра: *Аздобленая праўдай прыгажосць // Нічога роўнага не мае ў свеце. // У цудоўных ружах водар дзіўны ёсць, // Які жыве ў пурпуровым цвеце. // У квет атрутных зіхацення шмат // І водар да ружовага падобны. // Яны прывабіць могуць наш пагляд, // Калі вясной раскрываюцца бутоны. // Няма з іх цвету радасці для нас, // Атрутай адцвітанне іх спавіта. // А калі ружам вянуць прыйдзе час,— // Іх душы ў водар будуць пераліты. // Калі ж юнацтва, вянуць ты пачнеш, // Пералію тваю ўсю праўду ў верш!* Пераклад не толькі даносіць да беларускага чытача высокі духоўны і філасофскі свет паэзіі Шэкспіра, але і служыць развіццю літаратурнай мовы. Пра гэта — выказванне Дубоўкі: «Пры перакладзе санетаў Шэкспіравых мне трэба было перадаць слова «похитительница». У нашых слоўніках і «воровка» — зладзейка, і «похитительница» — зладзейка. Падыходзіць? Не! З жывой народнай мовы я ўзяў для другога паняцця — «скрадніца». Дрэнна? — Дайце лепшае, інакшае, але толькі не «зладзейку», і я падзякую вам. Таксама з народнай песні, для перадачы паняцця «сімпатыя», «мілка» я ўзяў слова «спадабанка» (Гардзіцкі А. У жыцці і мастацтве // Гардзіцкі А. Дыялогі. Мн., 1968. С. 61).

Паводле глыбокага перакanання Дубоўкі, моўныя скарбы — у народзе, «настаўнікаў, мудрэйшых, чым народ, не бывае». Такая арыентацыя дапамагала яму, адольваючы ўплыў рытарычнай паэзіі 1930—50 гадоў, захаваць і развіць творчы набытак сваёй маладосці — багацце слоўніка, натуральнасць паэтычнага прамаўлення, чысціню і мілагучнасць мовы.

*Літ.:* Бугаёў Дз. Уладзімір Дубоўка: Крытыка-біягр. нарыс. Мн., 1965; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Каўрус А. Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989.

*А. А. Каўрус.*

## ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ ВІКЕНЦІЙ ІВАНАВІЧ



Беларускі паэт, драматург, тэатральны дзеяч Вінцэнт (Вікенцій Іванавіч) Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся 4 лютага 1808 г. ў былым фальварку Панюшкавічы (Бабруйскі раён). Літаратурную дзейнасць пачаў у 1840-я гады. Псеўданім яго — Навум Прыгаворка. Першы друкаваны твор — «Сялянка. Опера ў двух актах» (Вільня, 1846; на беларускай і польскай мовах). У 1840-я гады распрацоўваў новыя жанравыя формы — вершаваныя апавяданні і аповесці, балады, вытрыманыя ў павучальным духу («Гапон», «Вечарніцы», 1855; «Купала», 1856; «Шчароўскія дажынкі», 1857, і інш.). Ён — пачынальнік беларускай нацыянальнай драматургіі: фарс-вадэвіль «Пінская шляхта» (1866), камедыя «Залёты» (1870, напісана ў традыцыях двухмоўя). Пісьменнік — першы перакладчык на беларускую мову паэмы «Пан Тадэвуш» (1859) А. Міцкевіча. Памёр В. Дунін-Марцінкевіч 17 снежня 1884 г. ў фальварку Люцінка (Валожынскі раён).

В. Дунін-Марцінкевіч першы з плеяды беларуска-польскіх пісьменнікаў 1-й паловы 19 ст. Назваўшы сябе беларускім дударом, ён свядома прысвяціў сваю творчасць беларускаму народу, добра выявіў у многіх творах нацыянальны каларыт, рэалістычна намаляваў падзеі, карціны, вобразы, што абумоўлена, несумненна, блізкасцю мастака да народных нізоў, веданнем мовы, псіхалогіі, побыту, нораваў і фальклору беларускага сялянства.

Творы В. Дуніна-Марцінкевіча па-рознаму ацэньваліся ў тагачасных грамадскіх колах. Прадстаўнікі рэакцыйных плыняў адмаўлялі не толькі магчымасць з'яўлення беларускай літаратуры, але і існаванне самой беларускай мовы. Падтрымліваў В. Дуніна-Марцінкевіча У. Сыракомля:

«Паэзія народная, русінская, з'яўляецца арэнай п. Марцінкевіча — няхай ён трымаецца на ёй як сапраўдны гладыятар» [Gazeta Warszawska (Варшаўская газета). 1857. 18 студз.].

Ад шматлікіх папрокаў адбіваўся і сам пісьменнік. У лісце да польскага пісьменніка Ю. Крашэўскага ён пісаў: «Жывучы сярод народа, які гаворыць на беларускай мове, звязаны целам і душою з яго думкамі, дбаючы аб лепшай долі гэтага братняга народа, які закасцнеў у адсталасці і цемры, я, каб абудзіць яго цікаўнасць да асветы ў духу звычаяў, паданняў, легенд і схільнасці душэўнай, рашыў пісаць на яго роднай мове... Вось, убачыўшы благія намаганні адарваць і зняверыць... народ, вырашыў я праз творы на яго роднай мове... заахвоціць яго да роднага слова, да асветы і маральнага самаўдасканалення» [Gazeta Polska (Польская газета). 1861. 20 крас.]. Пачаўшы пісаць на беларускай мове, В. Дунін-Марцінкевіч сустрэўся са значнымі цяжкасцямі; у яго не было папярэднікаў, ад якіх ён змог бы атрымаць у спадчыну галоўны «матэрыял і інструмент» — унармаваную літаратурную мову. Мастак стаяў ля самых вытокаў сучаснага беларускага нацыянальнага літаратурнага пісьма, самастойна адшукваў і выпрацоўваў адпаведныя сродкі і прыёмы літаратурнага выказвання. У той новай беларускай літаратуры (часткова друкаванай, а пераважна — рукапіснай, ананімнай), з якою ён мог быць знаёмы, яшчэ толькі-толькі зачыналася літаратурная апрацоўка беларускай мовы. Творы В. Дуніна-Марцінкевіча, напісаныя па-беларуску, паказваюць, што ён адразу здолеў выйсці за межы свайго дыялекту, зарыентаваўшыся на агульнанародныя, зразумелыя ўсім беларусам моўныя сродкі. Вось урывак з паэмы «Гапон»: *Шум, крык, гоман у карчме, // Кіпіць сельская дружына, // Піва, мёд, гарэлку п'е, // Ажны курыцца чупрына. // Гаспадары за сталом // Громка гутарку вядуць, // А ляндарка з лендаром // Мёд, гарэлку раздаюць. // Хлопцы, дзеўкі, маладзіцы // Ля парога гаманяць, // А старыя чараўніцы // Цішком ля печы сядзяць. // Ананя на скрыпцы іграець // «Лявоніху», то «бычка», // Гапон жару паддаваець: // «Зыграй, крычыць, «казачка»!*

Як бачым, слоўнік і граматычная структура гэтага фрагмента амаль не разыходзяцца з сучаснымі беларускімі літаратурнымі моўнымі нормамі. Наяўнасць нехарактэрных для сучаснай мовы лексічных адзінак і граматычных форм (*ажны, громка, ляндар* 'карчмар', *ляндарка* 'жонка карчмара', *іграець, паддаваець* і інш.) тут і наогул у творах пісьменніка абумоўлена, па-першае, уплывам народных



**Аўтограф В. Дуніна-Марцінкевіча («Быліцы Навума Прыгаворкі»). 1857.**

гаворак, з якіх не ўсё пазней стала агульнапрынятым, нарматыўным. Сляды дыялектаў сустракаюцца ў лексіцы (*броіць* 'выдумляць', *істопка* 'каморка', *крупнік* 'пітво', *мэрам* 'быццам', *найзнак* 'навыварат'), у сістэме марфалагічных форм (*на грудзёх, днёх, тоніць, скачэць, лічуць, болі* 'болей', *далі* 'далей'), праяўляюцца ў непаслядоўнай перадачы *е* ненаціскнога (*вясела, будзя, ня забудзь, нянаглядка, ена, пацраеш* 'згубіш') і г. д. Па-другое, паўплывалі на творчасць пісьменніка руская і польская мовы, элементы якіх сустракаюцца побач з агульнаўжывальнай лексікай: *атвет, урач, вална, луч, пацяраць, пабяжаць, гадкі* 'размовы', *злякацца* 'спалохацца', *бардзей* 'хутчэй' і інш., і якія былі пашыраны ў жывых беларускіх народных гаворках. З сучаснага пункту погляду можна было б гаварыць, што не заўсёды былі плённымі пошукі пісьменнікам патрэбнага слова, але такія прыклады якраз сведчаць пра складанасць і адметнасць працэсаў фарміравання беларускай літаратурнай мовы.

Мова некаторых персанажаў у творах В. Дуніна-Марцінкевіча перасыпана запазычанымі словамі, якія не сустракаюцца ні ў аўтарскай мове, ні ў мове іншых герояў, але такія элементы мастак выкарыстоўваў як стылістычныя сродкі для характарыстыкі прадстаўнікоў пэўных сацыяльных груп: мясцовых царскіх чыноўнікаў, фанабэрыстай шляхты. Напрыклад, беларуска-рускі моўны кангламерат нагадваюць рэплікі станавога прыстава Кручкова з камедыі «Пінская шляхта»: *Ну, дык добра! Следство кончано, цяпер будзе суд, а найперад: по указу всемилостивейшей государыни Елисаветы Петровны 49-го апреля 1893 года и всемилостивейшей Екатерины Великой от 23-го сентября 1903 года, а равномерно в смысле Статута литовского, раздела 8-го, параграфа 193-го, коим назначается в пользу суда от тяжущихся гривны. Обжалованный Протосовицкий имеет зараз же уплотить пошлин 20, прогонных 16 и на канцелярию 10 рублев. Жалующийся Липский в половине того, сведкі, каторыя бачылі драку, а не баранілі,— по 9-ці рублев, а вся прочая шляхта, што не бачыла дракі, за тое, што не бачыла,— па 3 рублі. Плаціце!*

Разам з тым не ўсе запазычанні ў творах В. Дуніна-Марцінкевіча апраўдваюцца мастацкімі патрабаваннямі або спецыфічнасцю, складанасцю працэсаў фарміравання беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы. На нематываванасць выкарыстання іншамоўных лексічных адзінак указвалі пісьменніку нават яго сучаснікі (У. Сыракомля), якія ўжо тады даволі дакладна адрозніваль беларускую, рускую і польскую моўныя стыхіі. Адной з прычын злоўжывання запазычаннямі, як лічыць Л. Шакун, было тое, «што пісьменнік свае паэтычныя творы звяртаў не столькі да селяніна, колькі да пана, да аўдыторыі «адукаванай», і таму імкнуўся ў пэўнай меры патрапіць густу тагачаснага адукаванага чытача, які выхоўваўся або на польскай, або на рускай мове, а то і на адной, і на другой адначасова» (Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984. С. 204—205). Пры гэтым гісторык беларускай мовы спасылаецца на аналагічную думку, выказаную яшчэ ў 1858 г. польскім паэтам А. Плугам. У сувязі з гэтым адзначым у ранніх (дарэформенных) творах В. Дуніна-Марцінкевіча манеру засмілавання рэчаіснасцю, саладжавасць, не ўласцівую народнаму апавяданню, абумоўленую ліберальна-сентыментальным падыходам мастака да адлюстравання жыцця і побыту народа. Так, у «Гапоне», «Вечарніцах», «Купале» і іншых творах даволі часта сустракаюцца памяншальна-ласкальныя формы лексічных адзінак, пастаральна-ідылічныя звароты (*дзетачкі, прыгожанькі, памаленьку, слёзкі брызнулі, ціхасць! майляў ангелы зляцелі, нядзелька красна, свет Божы спіць* і інш.). Гэтыя асаблівасці стылю выкарыстоўваюцца нават пры апісанні жыцця запрыгоненага сялянства, прычым мова аўтара ў стылістычных адносінах амаль нічым не адрозніваецца ад гаворкі «цёмнага» працаўніка.

І ўсё ж В. Дунін-Марцінкевіч у гісторыі беларускай мовы і літаратуры быў і застаецца дасканалым майстрам беларускага народнага слова. Нават яго раннія творы з'яўляюцца своеасаблівым нацыянальным эпасам, бо ў іх праўдзіва адлюстраваны характар

гутарковай мовы селяніна, яго побыт і склад думак. Вяршыняй моўнага майстэрства пісьменніка сталі парэформенныя п'есы «Пінская шляхта» і «Залёты», у якіх ён больш дбайна паставіўся да адбору сродкаў мастацкай выразнасці, стварыў дасканалыя моўныя характарыстыкі сваіх персанажаў. Невычэрпную крыніцу мастацкасці В. Дунін-Марцінкевіч заўсёды шукаў у народных гаворках і фальклоры, якія для тагачаснай беларускай літаратуры ва ўмовах яе працяглага заняволення і заняпаду былі амаль адзінымі сродкамі выяўлення духоўнага жыцця нацыі. З народнай мовы, з фальклору ў творах мастака бадай усе моўна-выяўленчыя сродкі, ідыёмы, трапныя прыказкі і прымаўкі (прыгадаем Навума Прыгаворку, які на любы выпадак мае дасціпны выраз, або Куторгу з «Пінскай шляхты»), гутарковыя формы сінтаксічных канструкцый, размоўныя інтанацыі — усё тое, што надае мове пісьменніка адметны, нацыянальны каларыт.

Напэўна, ніводны з пісьменнікаў 19 ст. не пакінуў нашчадкам такой багатай і разнастайнай жанравай літаратурнай спадчыны, як В. Дунін-Марцінкевіч, але найбольшая заслуга пісьменніка ў тым, што, «многа пішучы і многа друкуючы, ён узбуджаў вакол сваіх твораў размовы і палеміку, напамінаў аб існаванні беларускай мовы і зародкаў беларускай літаратуры, наводзіў на пытанне аб магчымасці іх далейшага развіцця» (Багдановіч М. Зб. тв. Т. 2. Мн., 1968. С. 226). Кнігі беларускага дудара сталі творчым арыенцірам для беларускіх пісьменнікаў не аднаго пакалення. Я. Купала, напрыклад, успамінаў, што важнае для яго пытанне, на якой мове пісаць, было вырашана пасля таго, як трапілі яму ў рукі беларускія творы Дуніна-Марцінкевіча,— з таго часу ён пісаў толькі пабеларуску. Пад уплывам В. Дуніна-Марцінкевіча пачалі пісаць А. Гарун, Ядвігін Ш. і іншыя пісьменнікі пачатку 20 ст. Сваёй літаратурнай працай мастак унёс вялікі ўклад у выпрацоўку першых норм беларускай літаратурнай мовы, чым значна аблегчыў працу сваім паслядоўнікам па далейшым яе развіцці.

*Літ.:* Грабчыкаў С. М. Структура і змест «Слоўніка мовы Дуніна-Марцінкевіча» // Беларускі лінгвістычны зборнік. Мн., 1966; Яго ж. З назіранняў над дыялектнымі варыянтамі ў лексіцы В. Дуніна-Марцінкевіча // З жыцця роднага слова: Лексікал. зб. Мн., 1968; Яго ж. З назіранняў над русізмамі ў творах В. Дуніна-Марцінкевіча // Весн. БДУ. Сер. 4. 1971. № 3. *У. Б. Ламека.*

## «ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ»

«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (ДАБМ) — сістэматызаваны збор лінгвістычных карт, якія




**«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы». Тытульны ліст. 1963.**

пры дапамозе ўмоўных знакаў адлюстроўваюць размяшчэнне разнастайных асаблівасцей беларускай народнай мовы на тэрыторыі Беларусі. Гэта першы атлас асобнай нацыянальнай мовы сярод славянскіх народаў. Работа над любым атласам пачынаецца з падрыхтоўкі праграмы па збіранні дыялектных матэрыялаў і вызначэнні сеткі населеных пунктаў, неабходных для абследавання. На Першай рэспубліканскай дыялекталагічнай канферэнцыі ў АН БССР (1948) быў прыняты агульны план стварэння дыялекталагічнага атласа беларускай народнай мовы. Меркавалася сабраць звесткі пра гаворкі жыхароў прыкладна 1500 вёсак Беларусі раўнамерна на адлегласці 10—15 км адна ад адной. На пачатку 1950 г. АН БССР была выдадзена «Праграма па вывучэнні беларускіх гаворак і збіранні звестак для складання дыялекталагічнага атласа беларускай мовы». Яна і стала канчатковай асновай па збіранні матэрыялаў для ДАБМ. Яны былі сабраны ў асноўным на працягу 1950—55 гг. шляхам экспедыцыйных выездаў дыялекталагічных атрадаў, у склад якіх уваходзілі вучоныя-дыялектолагі, выкладчыкі-філолагі вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі, спецыяльна падрыхтаваныя да гэтай работы студэнты. Кіравалі збіральніцкай працай Н. Т. Вайтовіч, М. А. Жыдовіч, Ю. Ф. Мацкевіч.

Праграма ДАБМ — гэта канкрэтна распрацаванае па раздзелах і пунктах заданне для збіральнікаў па выяўленні дыялектных асаблівасцей у гаворцы кожнай вёскі. Яна складаецца з чатырох раздзелаў: фанетыка, марфалогія, сінтаксіс і лексіка. У кожным раздзеле ёсць шэраг пытанняў, што трэба высветліць у гаворцы кожнай вёскі.

Фанетычны раздзел патрабаваў высветліць, якія галосныя і зычныя гукі выступаюць у маўленні і ў якім становішчы (г. зн. у якой пазіцыі ў слове), напрыклад: 9. «Які галосны гук вымаўляецца ў першым складзе перад



націскам замест арфаграфічнага *я* перад шыпячымі: *пагляджу, пагліджу* ці *пагледжу; прывяжу, прывіжу* ці *прывежу; цяжар, ціжар* ці *цежар; ячмень, ічмень* ці *ечмень?*» 59. «Як вымаўляюцца наступныя словы — з цвёрдым зычным ці з мяккім зычным: *менш* ці *меньш; тоншы* ці *тоньшы; конскі* ці *коньскі; дзеравенскі* ці *дзеравеньскі; мінскі* ці *міньскі; рускі* ці *руські?*» і інш.

Пытанні ў раздзеле марфалогіі зарыентаваны на ўстанаўленне характару канчаткаў розных зменных часцін мовы (скланяльных і спрагальных): 72. «Якія канчаткі маюць словы *пуць, мыш, гусь* ва ўскосных склонах: а) у родным склоне: *без пуця* ці *без пуці; няма мыша* ці *мышы; гуся* ці *гусі;* б) у давальным склоне: *к пуці* ці *к пуцю; мышы* ці *мышу; гусі* ці *гусю;* в) у творным склоне: *пуццю, пуцёй, пуцей, пуцею, пуцём, пуцям* ці *пуцем; з мышшу, з мышай, з мышаю, з мышуй, з мышую, з мышый, з мышыю, з мышэй, з мышэю* ці *з мышам, з мышэм; з гуссю, з гусёй, з гусёю, з гусяй, з гусяю, з гусій, з гусію, з гусей, з гусею* ці *з гусям, з гусем, з гусём?*» і інш. Гэтыя два раздзелы распрацаваны ў праграме найбольш грунтоўна і дэталёва, каб атрымаць максімальныя звесткі па кожнай асобнай гаворцы.

Раздзел па сінтаксісе ў праграме адносна невялікі і ўключае пытанні па ўжыванні асобных часцін мовы ў ролі тых ці іншых членаў сказа і па асаблівасцях спалучэння слоў: 123. «Ці ўжываюцца дзеепрыслоўі прошлага часу незалежнага стану ў ролі выказніка тыпу: *уся адзежа намокшы, тут вада перасохшы, мы прывыкшы да гэтай работы, адзін сын на вайне пагібшы, скаціна пад'еўшы, маці захварэўшы?*»; 146. «Як скажуць: *ехаў канём* ці *на кані; ехаў возам* ці *на возе; ехаў поездам* ці *на поездзе?*» і інш.

Лексічны раздзел змяшчае пытанні, пры дапамозе якіх неабходна высветліць, як называюць або абазначаюць у мясцовай гаворцы розныя прадметы і з'явы: 174. «Чым чэрпаюць ваду для пiцця: *кружка, карэц, коўш, конаўка, кубак, кварта...?*»; 190. *«Лён рвуць, бяруць...?»*; 231. *«Белка, вавёрка...?»*; 267. «Страва з мукі: *зацірка, кулеш, мачанка, верашчака...?*» і інш. Усяго ў праграме 301 пытанне.

Удзельнікамі дыялекталагічных экспедыцый на тэрыторыі Беларусі былі сабраны звесткі аб гаворках 1200 населеных пунктаў. Апублікаваны «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» ў 1963 г. ў дзвюх частках. Асобная кніга-альбом лінгвістычных і дадатковых даведачных карт змяшчае 7 гісторыка-адміністрацыйных і 338 лінгвістычных карт, у тым ліку 64 фанетычныя, 115 марфалагічных, 17 акцэнталагічных, 21 сінтаксічную і 121 лексічную. Карты паказваюць

тэрыторыю пашырэння разнастайных асаблівасцей мясцовай беларускай народнай мовы, даюць даволі добрае ўяўленне пра яе фанетычную сістэму, граматычную структуру і лексічныя асаблівасці. У якасці картаграфічных знакаў, адпаведных моўным з'явам, выкарыстаны розныя геаметрычныя фігуры (круг, трохвугольнік, квадрат і інш.), а таксама колеры (зялёны, чырвоны, карычневы, чорны і г. д.). Пры іх дапамозе на картах паказана супрацьпастаўленне моўных з'яў адна адной у іх якасных і колькасных адрозненнях. У другой асобнай кнізе надрукаваны спісы населеных пунктаў апорнай сеткі атласа са звесткамі пра іх, спіс навуковых прац па беларускай дыялекталогіі, тэарэтычны артыкул аб лінгвагеаграфіі і каментарыі да кожнай з 338 лінгвістычных карт.

Атлас адлюстроўвае дыялектную дыферэнцыяцыю беларускай народнай мовы ў сярэдзіне нашага стагоддзя. Розныя прасторавыя сувязі і ўзаемаадносіны пэўных моўных асаблівасцей паказваюць складанасць разнастайных працэсаў развіцця беларускай мовы на працягу вялікага гістарычнага адрэзку часу, даюць багаты матэрыял для правядзення розных навуковых назіранняў і доследаў аб структурна-сістэмных адносінах беларускіх гаворак, іх сувязях з рускімі, украінскімі, балтыйскімі, польскімі дыялектамі. Аналіз лінгвістычных карт атласа паказвае, што беларуская народная мова — не беспарадкавае напластаванне незалежных адна ад адной асаблівасцей, а пэўнае спалучэнне асобных тэрытарыяльных сістэм дыялектных асаблівасцей (дыялектаў і груп гаворак), дыялектнымі межамі якіх з'яўляюцца пучкі ізаглос. Высокай ацэнкай значэння і важнасці ДАБМ было прысуджэнне ў 1971 г. Дзяржаўнай прэміі СССР групе асноўных стваральнікаў (Г. У. Арашонкава, М. В. Бірыла, Н. Т. Вайтовіч, А. П. Груца, А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч, А. Р. Мурашка, Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук, В. М. Шэлег) і рэдактараў (Р. І. Аванесаў, К. Крапіва, Ю. Ф. Мацкевіч).

*Літ.:* Александровіч С. Народны скарб // ЛіМ. 1963. 22 кастр.; Стэльмах М. Багацце народнай лексікі // Полымя. 1963. № 12; Лапаў Б. Знойдзеныя скарбы // Беларусь. 1964. № 4; Стэцко П. Скарбніца народнай мовы // Маладосць. 1964. № 9; Дзендзелівський Й. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы // Мовознавство. 1968. № 1; Абрэмбска-Яблоньска А. Рэц. на: Дыялекталагічны атлас беларускай мовы // Slavia Orientalis. 1967. R—16. № 2; Крывіцкі А. А. Што такое лінгвагеаграфія. Мн., 1986. С. 50—68.

*П. А. Міхайлаў.*

## ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ

Дыялекталогія — галіна мовазнаўства, якая вывучае дыялектную мову, яе тэрытарыяльныя ўтварэнні (гаворкі, дыялекты, дыялектныя зоны) і іх структурныя сувязі і адносіны. Дыялекталагічныя працы змяшчаюць звесткі пра стан мясцовых гаворак, іх рэалізацыю ў народным маўленні, групоўку і размяшчэнне (апісальная дыялекталогія) або тлумачаць паходжанне і развіццё мясцовых гаворак, іх асаблівасцей і груп, складванне дыялектнай мовы ў цэлым (гістарычная дыялекталогія). Дыялекталагічныя звесткі падаюцца ў артыкулах, манаграфіях, даведніках і дапаможніках. Складаюцца дыялектныя («краёвыя», рэгіянальныя, абласныя) слоўнікі, зборнікі дыялектных лексічных і фразеалагічных матэрыялаў (дыялектная лексікаграфія і фразеаграфія), ствараюцца дыялекталагічныя карты і схемы тэрытарыяльнага размяшчэння дыялектнай мовы, групоўкі і размежавання яе мясцовых гаворак. Пры дапамозе фанетычнай транскрыпцыі фіксуюцца ўзоры мясцовага дыялектнага маўлення. Гэтыя ўзоры суправаджаюць дыялекталагічныя працы або падаюцца асобна ў выглядзе зборнікаў дыялектных тэкстаў, хрэстаматый.

Мовазнаўцы-дыялектолагі маюць справу пераважна з вусным маўленнем карэнных жыхароў, як правіла, сельскіх. Таму іх праца амаль заўсёды звязана з падарожжамі, нярэдка працяглымі. Асаблівасці мясцовай гаворкі (гукавыя, граматычныя, лексічныя) высвятляюцца ў працэсе непасрэдных слыхавых назіранняў над маўленнем, маўленчай дзейнасцю людзей, у час гутарак з імі і пры іх размовах паміж сабой. Пачутыя словы, выразы ў іх форме, гучанні, значэнні занатоўваюцца пісьмова. Адначасова ідзе і папярэдні аналіз маўлення, устанаўліваюцца розныя асаблівасці мясцовай гаворкі. Для даследаванняў выкарыстоўваюцца любыя (фальклорныя, этнаграфічныя, мастацкія і інш.) запісы ўзораў мясцовага маўлення, якія адлюстроўваюць яго дыялектную своеасаблівасць. Цяпер у дыялекталагічнай збіральніцкай працы выкарыстоўваюцца запісы маўлення на магнітную стужку. Гэта фіксацыя маўлення з'яўляецца поўнай і выключна зручнай не толькі для слыхавых назіранняў, але і для кантролю і праверкі іх вынікаў, а таксама для правядзення над усімі часткамі і элементамі зафіксаванага маўлення інструментальных (прыборных) і аўдыторных (пры дапамозе экспертаў) эксперыментаў.

Дыялекталогія пачала вылучацца з фалькларыстыкі і этнаграфіі ў пачатку 19 ст. У яе гісторыі досыць выразна вызначаюцца два перыяды. Першы перыяд характарызуецца панаваннем у дыялекталогіі поглядаў на мову, яе стан і развіццё лінгвістаў-младаграматыкаў. У цэнтры ўвагі дыялектолагаў у гэты перыяд была структура мясцовых гаворак, іх асаблівасці. У выяўленні і апісанні гэтага былі дасягнуты вялікія поспехі. Для навуковага асэнсавання адкрывалася натуральная стыхія вуснай мовы ва ўсёй разнастайнасці яе асаблівасцей, якая раней лічылася дэградацыяй першасных «боскіх» моў у вуснах простага народа, вынікам простанароднага «псавання». Аднак праблемы ўзаемаадносін паміж мясцовымі гаворкамі вырашаліся младаграматыкамі часта адвольна або ўмоўна, зыходзячы з апрыёрных тэарэтычных канцэпцый аб суб'ектыўна-псіхічнай прыродзе мовы і яе змяненняў. Вынікам іх даследаванняў і абагульненняў з'яўляліся дыялекталагічныя карты мовы або моў з групоўкай гаворак. Такія карты суправаджаліся заўсёды разважаннямі аб прыблізнасці і ўмоўнасці адзначанай на іх групоўкі гаворак, іх межаў і межаў самой мовы, паколькі вызначаліся яны, як правіла, на падставе адной або некалькіх асаблівасцей (тэарэтычна лічылася, што найважнейшыя асаблівасці моў і дыялектаў па межах свайго пашырэння павінны супадаць).

Другі, новы перыяд у развіцці дыялекталогіі вызначаецца з'яўленнем у яе нетрах лінгвагеаграфіі з вельмі дасканалымі спосабамі высвятлення і адлюстравання тэрытарыяльных адносін паміж мясцовымі гаворкамі паводле іх асаблівасцей, паходжання і інш. Гэтыя адносіны робяцца асноўнай мэтай лінгвагеаграфічнага даследавання мясцовых гаворак. Працамі, якія даволі поўна адлюстроўваюць падобныя тэрытарыяльныя адносіны мясцовых гаворак, з'яўляюцца лінгвістычныя (дыялекталагічныя) атласы. У сувязі з лінгвагеаграфічнымі даследаваннямі з'явіліся новыя тэарэтычныя канцэпцыі стану і развіцця моўнай рэчаіснасці ў прасторы, карэнным чынам адрозныя ад канцэпцый младаграматыкаў (тэорыя лінгвістычнай бесперапыннасці, тэорыя моўных хваляў, тэорыя моўных цэнтраў і перыферыі і інш.). Пра адносіны паміж мясцовымі гаворкамі на этналінгвістычнай прасторы, яднанне і размежаванне іх па сваіх асаблівасцях і групоўку можна меркаваць на падставе вывучэння пашырэння і тэрытарыяльнага супрацьпастаўлення гэтых асаблівасцей. Мовы, дыялекты і іншыя групы мясцовых гаворак вызначаюцца па наяўнасці ў іх аднолькавых асаблівасцей. А сплячэнні межаў пашырэння гэтых асаблівасцей і супрацьпастаўленне асаблівасцям іншых гаворак, або так званыя пучкі ізаглос, разглядаюцца як моўныя або дыялектныя межы.

Асаблівасці беларускай дыялектнай мовы пачалі адлюстроўвацца спачат-

ку ў фальклорна-этнаграфічных запісах пачатку 19 ст. (З. Я. Даленга-Хадакоўскі, І. І. Шыдлоўскі, М. А. Дзмітрыеў, Я. Чачот, П. М. Шпілеўскі, А. Кіркор, Р. С. Зянькевіч, П. В. Шэйн, П. А. Бяссонаў, М. Я. Нікіфароўскі, Е. Р. Раманаў, М. А. Янчук, М. В. Доўнар-Запольскі, А. Я. Багдановіч, М. Федароўскі і інш.). У гэты час паявіліся невялікія апісанні і тлумачэнні асаблівасцей беларускай дыялектнай мовы К. Ф. Калайдовіча (1822), Ф. Галатузава (1852), М. Анімеле (1853) і інш. Спробы лінгвістычнага абагульнення і асэнсавання назапашаных звестак і матэрыялаў адносяцца да другой палавіны 19 — пачатку 20 ст. (І. І. Насовіч, М. А. Коласаў, К. Апель, І. А. Нядзёшаў, Е. Р. Раманаў, У. М. Дабравольскі, А. К. Сержпутоўскі, І. А. Сербаў і інш.). Заснавальнікам беларускай дыялекталогіі стаў Я. Ф. Карскі. Ён зрабіў вельмі грунтоўны і сістэматычны агляд і гістарычны аналіз развіцця асаблівасцей беларускай дыялектнай мовы, сабраў звесткі пра яе тэрытарыяльнае пашырэнне, прапанаваў групоўку гаворак. Ім складзена дыялекталагічная карта «Беларускія гаворкі» (1903). Яму таксама належыць першы кароткі нарыс беларускай дыялекталогіі. Пытанні беларускай дыялекталогіі асвятляліся і ў працах па гісторыі і дыялекталогіі рускай мовы ў яе тагачасным шырокім разуменні як адзінства ўсходнеславянскіх моў (А. І. Сабалеўскі, А. А. Шахматаў, В. А. Багародзіцкі). Важнае значэнне мелі працы Маскоўскай дыялекталагічнай камісіі, асабліва яе «Спроба дыялекталагічнай карты рускай мовы ў Еўропе» (1915) з дадаткам «Нарыса рускай дыялекталогіі» (М. М. Дурнаво, М. М. Сакалоў, Дз. М. Ушакоў).

Пасля 1917 г. ў Беларусі дыялекталагічныя даследаванні разгарнуліся ў некалькіх кірунках. Працягвалася вывучэнне мясцовых гаворак паасобных раёнаў, у тым ліку беларуска-украінскага і беларуска-рускага сумежжаў (П. А. Бузук, П. А. Растаргуеў), беларускай міждыялектнай зоны пераходных мясцовых гаворак (І. В. Воўк-Левановіч, С. М. Некрашэвіч). Выконвалася шырокая праграма збірання дыялектнай лексікі, распрацаваная камісіяй Інбелкульта па складанні слоўніка жывой беларускай мовы (гл. **Дыялектная лексікаграфія**). Было распачата лінгвагеаграфічнае вывучэнне беларускай дыялектнай мовы. «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі» (1928) П. А. Бузука — першая спроба стварэння нацыянальнага лінгвістычнага атласа ў славянскай дыялекталогіі. Але ў сувязі з беспадстаўнымі рэпрэсіямі, а потым і знішчэннем амаль усіх беларускіх мовазнаўцаў у пачатку 30-х гадоў даследаванні мясцовых гаворак у перадваенныя гады былі фактычна спынены.

Вялікі размах атрымала дыялекталагічная праца на Беларусі ў пасляваенны час. Дэталёва даследаваны мясцовыя гаворкі паасобных раёнаў і абласцей рэспублікі і вывучаны шэраг катэгорый і з'яў беларускай дыялектнай мовы — назоўнік, прыметнік, дзеяслоў, займеннік, лічэбнік, словаўтварэнне, сінтаксіс, аканне і інш. (М. В. Бірыла, Н. Т. Вайтовіч, Ю. Ф. Мацкевіч і інш.). У галіне дыялектнай лексікаграфіі праводзіцца збіранне матэрыялаў, якія друкуюцца ў выглядзе дыялектных слоўнікаў, дыялектных лексікаграфічных зборнікаў, публікацый у навуковых выданнях і перыёдыцы («Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» ў пяці тамах, 1979—86; «Тураўскі слоўнік» у пяці тамах, 1982—87, «Дыялектны слоўнік» Ф. М. Янкоўскага ў трох выпусках, 1959, 1960, 1970, каля дзесятка асобных збораў лексікі і фразеалогіі Мсціслаўшчыны Г. Ф. Юрчанкі і многія іншыя). Створаны комплекс фундаментальных лінгвагеаграфічных прац — «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69), падрыхтаваны «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» (больш за 2 тыс. лінгвістычных карт), які адлюстроўвае размяшчэнне слоў розных пластоў мовы мясцовых гаворак у межах Беларусі (1-ы том выйшаў у 1993 г.). З 70-х гадоў даследуюцца тэматычныя групы дыялектных слоў, лексіка старых рамёстваў, лексічныя сувязі мясцовых беларускіх гаворак з іншымі мовамі і іх дыялектамі. Новы кірунак беларускай дыялекталогіі — вывучэнне сучаснага мясцовага маўлення і моўнай сітуацыі ў розных рэгіёнах і гарадах рэспублікі (гл. таксама **Гістарычная дыялекталогія**).

*Літ.*: Карский Е. Ф. Русская диалектология. Л., 1924; Нарысы па беларускай дыялекталогіі. Мн., 1964; Блінава Э. Д., Мяцельская Е. С. Беларуская дыялекталогія. 2 выд. Мн., 1980; Жураўскі А. І., Крывіцкі А. А. Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР. Мн., 1979. *А. А. Крывіцкі.*

## ДЫЯЛЕКТНАЯ ЛЕКСІКАГРАФІЯ

Дыялектная лексікаграфія — асобная галіна дыялекталогіі, якая распрацоўвае тэарэтычныя і практычныя пытанні збірання, сістэматызацыі, апісання дыялектнай лексікі і укладання дыялектных слоўнікаў розных тыпаў. На практыцы дыялектная лексікаграфія выкарыстоўвае прыёмы і прынцыпы агульнай лексікаграфіі.

У працэсе гістарычнага фарміравання беларуская дыялектная лексікаграфія прайшла тры асноўныя этапы, якія, паводле А. А. Крывіцкага, умоўна названы этнаграфічным, этналінгвістычным і ўласна дыялектаграфічным. Пачатак этнаграфічнага этапу адносіцца да першых дзесяцігоддзяў 19 ст., калі пачалося разгортванне працы па выяўленні, рэгістрацыі і даследаванні беларускіх вуснапаэтычных твораў, што падштурхнула да фіксацыі лексікі дыялектнай мовы. Папярэднікі беларускіх дыялектолагаў (прадстаўнікі этнаграфічнага этапу) — А. Багдановіч, Я. Баршчэўскі, П. Бяссонаў, М. Дзмітрыеў, З. Даленга-Хадакоўскі, М. Доўнар-Запольскі, Р. Зянькевіч, М. Нікіфароўскі, Ч. Пяткевіч, Е. Раманаў, І. Сербаў, А. Сержпутоўскі, М. Федароўскі, Я. Чачот, П. Шпілеўскі, П. Шэйн, М. Янчук і многія іншыя. Для дакладнага разумення этнаграфічных і фальклорных запісаў яны рыхтавалі спецыяльныя даведнікі, у якіх тлумачылі значэнне слоў жывой народнай мовы. Аднак у поўным сэнсе пачаткам дыялектнай лексікаграфіі гэта лічыць нельга, бо народнае слова ў іх працах яшчэ не разглядалася як асобная моўная з'ява. Тым не менш фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы мінулага — важная, а ў асобных выпадках і адзіная крыніца звестак па беларускай народнай лексіцы.

Першыя спробы па арганізацыі збірання дыялектнай лексікі і яе лексікаграфічнай апрацоўцы адносяцца да пачатку 19 ст. Ініцыятары гэтай работы — Віленскі і Маскоўскі універсітэты, Расійская акадэмія навук. У іх былі распрацаваны праграмы для збірання матэрыялаў па гісторыі і этнаграфіі. Асаблівая ўвага звярталася на неабходнасць фіксацыі народных слоў і вывучэнне жывой гаворкі. Сярод першых запісаў беларускай народнай лексікі — публікацыя «Апісанне Крычаўскага графства або былога старостваства 1786 года» (апублікавана ў 1910 г.) А. Меера, дзе побач з гісторыка-этнаграфічным нарысам Усходняй Магілёўшчыны зроблена спроба лінгвістычнай характарыстыкі мовы мясцовага насельніцтва, даецца падборка больш як 600 слоў. У 1822 г. ў «Трудах Общества любителей российской словесности» надрукаваны артыкул К. Ф. Калайдовіча «Пра беларускую гаворку», дадаткам да якога быў слоўнік на 67 слоў.

Слоўнічак спецыфічных беларускіх слоў (каля 250) быў складзены вядомым паэтам і фалькларыстам Я. Чачотам (1796—1846). Лексікаграфічная апрацоўка слова Я. Чачотам (гл. **Чачот Ян**) была ўзорнай для наступных лексікографаў. Першымі актыўнымі збіральнікамі лексікі беларускіх гаворак былі І. Насовіч (гл. **Насовіч Іван Іванавіч**), С. Мікуцкі (гл. **Мікуцкі Станіслаў Паўлавіч**), П. Шпілеўскі (гл. **Шпілеўскі Павел Міхайлавіч**) і інш. Рукапісны «Слоўнік беларускай гаворкі» П. Шпілеўскага — самая значная ў беларускім мовазнаўстве лексікаграфічная праца

першай палавіны 19 ст. Большасць уключаных у яго слоў не вузкія рэгіяналізмы, а найбольш характэрныя для гаворак усёй беларускай дыялектнай зоны.

Былі і спецыяльныя даручэнні Расійскай акадэміі навук скласці даведачны каталог беларускай лексікі спачатку І. І. Грыгаровічу (1795—1852), а затым С. П. Мікуцкаму (1815—90). Аднак І. Грыгаровіч (гл. **Грыгаровіч Іван Іванавіч**) уклаў толькі словы на літары А — В, а С. Мікуцкі абмежаваўся артыкуламі па лексіцы беларускай мовы. Розныя тлумачальныя лексічныя дадаткі да фальклорных і этнаграфічных запісаў змяшчаюцца ў публікацыях Д. Булгакоўскага, П. Бяссонава, П. Гільтэбранта, М. Доўнар-Запольскага, А. Дамбавецкага, А. Кіркора, М. Нікіфароўскага, Е. Раманава (гл. **Раманаў Еўдакім Раманавіч**), П. Шэйна і іншых. Але ў гэты час большае навуковае значэнне набываюць такія работы па лексіцы беларускіх гаворак, у якіх ужо даследуюцца структура і сродкі самой мовы.

Этналінгвістычны этап у гісторыі беларускай дыялектнай лексікаграфіі выступае як частка агульнага апісання беларускай мовы. Першым грунтоўным слоўнікам беларускай нацыянальнай мовы з'яўляецца фундаментальная праца І. Насовіча «Слоўнік беларускай мовы» (Спб., 1870). Слоўнік (гл. **«Слоўнік беларускай мовы» І. Насовіча**) рэгіянальны: у ім пераважае паўночна-ўсходняя беларуская дыялектная лексіка. Гэта праца ўзняла беларускую лексікаграфію на больш высокі ўзровень навуковай і грамадскай значнасці. Слоўнік даў непасрэдны штуршок зараджэнню беларускай дыялектнай лексікаграфіі.

Іншыя беларускія дыялектныя слоўнікі мелі характар невялікіх дадаткаў да слоўніка І. Насовіча. Яны змяшчалі адсутныя ў ім словы з розных беларускіх гаворак або спецыяльную тэрміналогію некаторых традыцыйных народных заняткаў. Такімі былі лексічныя матэрыялы З. Радчанкі, У. Дабравольскага, С. Малевіча, М. Нікіфароўскага, Е. Раманава і інш. У гэты час пачалі даследаваць і асаблівасці слоўніка жаргонаў некаторых спецыяльных груп насельніцтва тагачаснай Беларусі (арго рамеснікаў, жабракоў і інш.).

У 1897 г. Я. Ф. Карскім (гл. **Карскі Яўхім Фёдаравіч**) апублікавана праграма, якая арыентавала даследчыкаў на вывучэнне асаблівасцей беларускай дыялектнай мовы, у тым ліку і лексікі народных гаворак. Згодна з рэкамендацыямі Я. Карскага неабходна было запісваць найперш тыя словы, якія адсутнічалі ў слоўніку І. Насовіча. Дыялектныя лексічныя матэрыялы, сабраныя карэспандэнтамі Я. Карскага ў розных месцах беларускай дыялектнай зоны, часткова былі апублікаваны асобнымі выпускамі (1897—1907). Сам Я. Карскі планаваў завяршыць сваё фундаментальнае даследаванне «Беларусы» вялікім зборам лексікі ў дзвюх частках: слоўнік жывой (дыялектнай) беларускай мовы і слоўнік беларускай мовы. На жаль, задума Я. Карскага засталася няздзейсненай. Такім чынам, этналінгвістычны этап у фарміраванні беларускай дыялектнай лексікаграфіі не атрымаў лагічнага завяршэння.

Дыялектаграфічны этап у гісторыі беларускай дыялектнай лексікаграфіі ўяўляе асобную галіну беларускай апісальнай дыялекталогіі, галоўная задача якой — складанне дыялектных слоўнікаў розных рэгіёнаў Беларусі. Пачынальнікам гэтага этапу лічыцца У. М. Дабравольскі (гл. **Дабравольскі Уладзімір Мікалаевіч**), выдатны даследчык традыцыйнай народнай культуры Смаленшчыны, які ад рэгістрацыі рэгіянальнай лексікі яшчэ ў 1880-я гг. паступова прыйшоў да пераканання аб неабходнасці поўнага апісання традыцыйнай культуры і мовы гэтай этнадыялектнай зоны. Падрыхтаваны ім вялікі слоўнік Смаленшчыны (1914) з'яўляецца даволі поўным зборам лексікі народных гаворак цэнтральнай яе часткі.

Навуковы падыход да вывучэння лексікі беларускай мовы з'яўляўся метадалагічнай асновай лексікаграфічнай праграмы Слоўнікавай камісіі Інстытута беларускай культуры. Яна была распрацавана С. Некрашэвічам (гл. **Некрашэвіч Сцяпан Міхайлавіч**) і пачала ажыццяўляцца ў 1925 г. Былі вызначаны два асноўныя кірункі ў галіне слоўніка жывой беларускай мовы: стварэнне вялікага збору беларускай лексікі (на ўзор слоўніка ўкраінскай мовы Б. Грынчанкі або слоўніка польскай мовы Я. Карловіча) і ўкладання краёвых слоўнікаў. Планавалася скласці 10 краёвых слоўнікаў па колькасці акруг Савецкай Беларусі (Аршанскай, Бабруйскай, Барысаўскай, Віцебскай, Калінінскай, Магілёўскай, Мазырскай, Мінскай, Полацкай, Слуцкай). Ажыццяўленне задумы даручалася акруговым і мясцовым краязнаўчым таварыствам. Былі падрыхтаваны інструкцыі для ўкладальнікаў слоўнікаў і апытальнікі для збіральнікаў. Праведзеныя арганізацыйна-метадычныя мерапрыемствы неўзабаве пачалі даваць плён. У 1927 г. быў апублікаваны першы дыялектны слоўнік М. Касяровіча (гл. **Касяровіч Мікалай Іванавіч**), у якім змешчана лексіка з Віцебскай акругі. У 1929 г. выдадзены слоўнік гаворак наваколляў Чэрвеня, укладзены М. Шатэрнікам (гл. **Шатэрнік Мікалай Васілевіч**). Паспяхова ішла праца над складаннем слоўніка Мазырскай і Калінінскай акруг. Перспектывы больш шырокага і дэталёвага вывучэння лексікі беларускай мовы вызначаліся планам спецыяльных лінгвагеаграфічных даследаванняў П. А. Бузука (гл. **Бузук Пётр Апанасавіч**). Яго рэалізацыя дазволіла б атрымаць звесткі аб геаграфіі паасобных слоў. На жаль, на пачатку 30-х гг. з-за вынішчэння спецыялістаў дыялекталагічныя даследаванні на




**Дыялектныя слоўнікі.**



Беларусі былі спынены. Аднаўленне дыялекталагічнай працы прыпадае на канец 1940 — пачатак 1950-х гг., калі пачалося збіранне матэрыялаў для «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (гл. «**Дыялекталагічны атлас беларускай мовы»).** Да непасрэднага ўдзелу ў дыялекталагічных даследаваннях былі далучаны шырокія колы грамадскасці (навукоўцы, студэнты-філолагі, творчая інтэлігенцыя, аматары роднага слова). У 1955 г. на рэспубліканскай дыялекталагічнай нарадзе была прынята праграма планамернага разгортвання дыялектнай лексікаграфічнай працы ў рэспубліцы, прапаноўвалася пачаць збіранне рэгіянальнай лексікі для стварэння занальных дыялектных слоўнікаў. Гэта слоўнікі мінска-маладзечанскіх гаворак, віцебска-полацкіх, Магілёўшчыны, Гомельшчыны, палескіх, брэсцка-пінскіх, Гродзеншчыны і слуцка-бабруйскіх гаворак. Цэнтрамі збірання народнай лексікі па кожнай зоне былі вызначаны кафедры беларускай мовы вышэйшых навучальных устаноў, размешчаных у адпаведнай зоне, і Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Для збіральнікаў дыялектнай лексікі быў падрыхтаваны спецыяльны апытальнік у трох выпусках (1959, 1960, 1966).

Вынікі рэалізацыі гэтай праграмы ў розных зонах неаднолькавыя. Найбольш даследавана ў лексічных адносінах Магілёўшчына. Першым у пасляваенны час быў апублікаваны «Дыялектны слоўнік» Ф. М. Янкоўскага (вып. 1—3, 1959, 1960, 1970, гл. **Янкоўскі Фёдар Міхайлавіч**), які змяшчае лексіку гаворак Глускага раёна. Гэты слоўнік стаў пачаткам цэлай серыі невялікіх дыферэнцыяльных слоўнікаў дыялектнай лексікі, характэрнай для гаворак дробных рэгіёнаў (адміністрацыйны раён, група вёсак і да т. п.). Вядома серыя дыялектных лексікаграфічных прац па гаворках Мсціслаўскага раёна Г. Ф. Юрчанкі (гл. **Юрчанка Георгій Фёдаравіч**). У 1970 г. выйшаў з друку «Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча (гл. **Бялькевіч Іван Кандратавіч**), матэрыял для якога сабраны яшчэ ў 20—30-я гг. Р. Яўсееў выдаў (1978) слоўнічак гаворак Бялыніцкага раёна (каля 2000 слоў). У 1981 г. былі апублікаваны «Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны», сабраныя выкладчыкамі кафедры беларускай мовы Магілёўскага педінстытута. Лексіка народных гаворак Гомельшчыны сабрана ў зборніку «Беларуская мова» (вып. 3—10, 1975—1982; падрыхтавалі выкладчыкі Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны), а таксама ў рэгіянальных слоўніках Т. С. Янковай («Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны», 1982) і П. А. Растаргуева. Шмат зроблена ў вывучэнні лексічнай сістэмы гаворак Гродзеншчыны [Сцяшковіч Т. Ф. Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці, 1959; Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці, 1972; Слоўнік Гродзенскай вобласці, 1983; Сцяцко П. У. Дыялектны слоўнік: (З гаворак Зэльвеншчыны), 1970; Яго ж. Народная лексіка, 1970; Яго ж. Народная лексіка і словаўтварэнне, 1972]. Вядзецца збор матэрыялаў для слоўніка гаворак Навагрудчыны. Пад рэдакцыяй М. А. Жыдовіч апублікаваны «Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» (1970, 1974, 1977), а ў 1976 г. «Лексіка народных гаворак» — даследаванне асобных пластоў народнай лексікі К. М. Панюціч. У 1988 г. выкладчыкамі Брэсцкага педінстытута выдадзены «Дыялектны слоўнік Брэстчыны». Зборам рэгіянальнай лексікі з розных мясцін Беларусі з'яўляецца слоўнік Л. Ф. Шаталавай «Беларускае дыялектнае слова» (1975). У апошнія гады публікуюцца невялічкія лексічныя падборкі рэгіянальнай лексікі і фразеалогіі ў перыядычных выданнях, напрыклад у часопісе «Полымя».

Беларуская рэгіянальная лексікаграфія за апошні час узбагацілася і дыялектнымі зборнікамі. Першы такі лексічны зборнік апублікаваны ў 1960 г. па ініцыятыве Ф. М. Янкоўскага. У яго ўвайшлі мікраслоўнічкі з розных рэгіёнаў Беларусі. А ў 1975—79 гг., 1992 г. зборнікі артыкулаў, якія змяшчаюць рэгіянальную лексіку гаворак розных куткоў Беларусі, у тым ліку і лексіку традыцыйных вясковых заняткаў і рамёстваў, публікаваў Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі.

З праграмай вывучэння лексікі гаворак беларускага Палесся ў 60-я гг. выступіў М. І. Талстой (Масква). Пад яго кіраўніцтвам сабраны значны лексічны матэрыял, які лёг у аснову зборнікаў артыкулаў «Палессе», «Лексіка Палесся» (1968), публікаваўся таксама ў іншых выданнях. З сярэдзіны 70-х гадоў пад яго кіраўніцтвам разгорнута этналінгвістычнае даследаванне Палесся, у выніку чаго надрукаваны шэраг арыгінальных лексікаграфічных прац. Найбольш буйнымі лексікаграфічнымі працамі з'яўляюцца 5-томныя «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе парнанічча» (1979—86) і «Тураўскі слоўнік» (1982—87). Першы слоўнік адлюстроўвае лексічны фонд беларускіх гаворак, якія знаходзіліся або знаходзяцца ў кантактах з гаворкамі літоўскай і польскай моў. «Тураўскі слоўнік» змяшчае традыцыйную лексіку невялікай групы палескіх гаворак вакол г. п. Турава, аднаго з самых старажытных гарадоў Беларусі.

Большасць дыялектных слоўнікаў адлюстроўваюць побач з лексічным матэрыялам і багатую народную фразеалогію. Адны аўтары выкарыстоўваюць яе як ілюстрацыйны матэрыял у слоўнікавых артыкулах, другія змяшчаюць у канцы працы ў выглядзе невялічкіх фразеалагічных слоўнікаў. Апошнім часам дыялектная фразеалагічная лексікаграфія вылучылася ў асобную галіну. Зараз беларуская дыялектная фразеалогія — гэта цэлая серыя спецыяльных фразеалагічных слоўнікаў, як агульных, так і рэгіянальных. Сярод іх найбольш значным з'яўляецца 3-томны дыялектны слоўнік Г. Юрчанкі, які змяшчае ўстойлівыя спалучэнні гаворак Мсціслаўшчыны. Шырока вядомы фразеалагічныя слоўнікі Ф. Янкоўскага, Е. Мяцельскай і Я. Камароўскага, В. Ліцвінкі і Л. Царанкова, В. Рабкевіча, Р. Шкрабы і І. Шкрабы.

Другі важны кірунак навуковай працы па рэгіянальнай лексіцы ў рэспубліцы — даследаванні геаграфіі слоў у іх структурных і семантычных варыянтах. Такая работа не толькі дае магчымасць выяўляць незафіксаваную раней лексіку, вызначаць і ўдакладняць межы лексічных арэалаў, але і стварае магчымасці для адшукання і гістарычнай інтэрпрэтацыі беларуска-іншаславянскіх лексічных паралеляў, што мае важнае значэнне для сучаснай беларускай лінгвістычнай навукі. Тут, не забываючыся пра папярэднікаў (лінгвагеаграфічныя работы Й. Тарнацкага, П. Бузука і «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы»), неабходна назваць «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак», які непасрэдна звязаны з асноўнымі задачамі і мэтай нашай сучаснай лінгвагеаграфіі. Ідэя стварэння атласа зарадзілася ў канцы 60-х гадоў. На сённяшні дзень сабраны і сістэматызаваны вялікі лексічны матэрыял, складзена каля 2000 карт, вядзецца работа па падрыхтоўцы яго да выдання. Багата рэгіянальнай лексікі назапашана, і пачата яе паступовая публікацыя ў «Атласе ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны», «Агульнаславянскім лінгвістычным атласе», «Лінгвістычным атласе Еўропы».

Яшчэ адным важным кірункам у беларускай дыялектнай лексікаграфіі можна лічыць падрыхтоўку розных агульных і рэгіянальных анамастычных слоўнікаў. Завяршаецца падрыхтоўка шэрага рэгіянальных дыялектных слоўнікаў, актыўна збіраецца матэрыял і для іншых. Шмат лексікі змяшчаецца ў рукапісных матэрыялах у архівах і бібліятэках. Таму вельмі актуальнай з'яўляецца задача падрыхтоўкі зводнага слоўніка беларускіх народных гаворак.

*Літ*: Крывіцкі А. А. Тры этапы фарміравання беларускай дыялектнай лексікаграфіі // З народнага слоўніка. Мн., 1975; Яго ж. Сучасная беларуская дыялектная лексікаграфія. Стан і перспектывы // Македонски јазик, 1980. Т. 31; Гуліцкі М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1978; Затаўкалюк М. Беларуская лексікалогія за пяцігоддзе 1965—1970 // Slavia. 1972. R. 41, Nr 3; Москаленко А. А.

Українські, російські та білоруські діалектні словники // Мовознавство. 1969. № 2; Расторгуев П. А. Словарь народных говоров Западной Брянщины: Материалы для истории словарного состава говоров. Мн., 1973; Толстая С. М. О новых направлениях в белорусской диалектной лексикографии // Общеславянский лингвистический атлас: Материалы и исследования. 1982. М., 1985; Я е ж. Полесский народный календарь: Материалы к этнодиалектному словарю. А — Г, Д — И, К — П // Славянское и балканское языкознание. Славянский и балканский фольклор. М., 1984—86; Гура А. В. Из полесской свадебной терминологии. Свадебные чины. Словарь: Б — М // Славянское и балканское языкознание: Язык в этнокультурном аспекте. М., 1984; Яго ж. Из полесской свадебной терминологии. Свадебные чины. Словарь: Н — Свашка // Славянский и балканский фольклор: Духовная культура Полесья на общеславянском фоне. М., 1986; Лабко В. Д. Сучасная беларуская дыялектная лексікаграфія і этымалагічнае вывучэнне лексікі // Народная словатворчасць. Мн., 1979; Крыўко М. Н. Набыткі беларускай дыялектнай лексікаграфіі за апошнія 20 гадоў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 4; Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі. Т. 1. Мн., 1990; Лепешаў І. Я. З народнай фразеалогіі: Дыферэнцыяльны слоўнік. Мн., 1991; Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы. Вып. 1—3 Мн., 1959—66. *П. А. Міхайлаў.*

## ДЫЯЛЕКТНАЯ МОВА

Дыялектная мова (народна-дыялектная мова) — гэта мова народа (нацыі або народнасці), якая выступае ў выглядзе мясцовых гаворак. Пры наяўнасці ў народа акрамя дыялектнай яшчэ і літаратурнай мовы абедзве яны ўтвараюць адзіную сістэму мовы народа і з'яўляюцца яе разнавіднасцямі. Таму абедзвюм ім надаецца права прадстаўнічай роўнасці. Як літаратурная мова, так і любая мясцовая гаворка дыялектнай мовы з'яўляецца натуральным увасабленнем і прадстаўніком мовы пэўнага народа (а не яго «сапсаванай», «нячыстай» мовай). Але кожная з гэтых разнавіднасцей мовы мае сваю сферу ўжывання і свае формы існавання. Дыялектная мова, мясцовыя гаворкі адрозніваюцца ад літаратурнай мовы сваёй тэрытарыяльнай неаднастайнасцю і абмежаванасцю пашырэння, звычайна вуснай формай бытавання, вузкай грамадскай ужывальнасцю і прыналежнасцю пераважна сялянству.

Мясцовыя гаворкі, якія складаюць дыялектную мову, могуць быць блізкія паміж сабой, могуць і значна адрозніваца. Але для гаворак асобнай дыялектнай мовы характэрна пэўная агульнасць іх лёсу і этнічных adносін, якая абумоўлівае тое ці іншае падабенства іх паводле граматычнага ладу, слоўніка, па фанетычнай рэалізацыі выказванняў. Гэта агульнасць гаворак разам з іх падабенствам з'яўляецца для людзей, якія імі валодаюць, больш значнай і важнай за розніцу. Яна служыць апорай для паняцця пра асобную дыялектную мову як рэальна існуючую еднасць мясцовых гаворак і для яе вылучэння на этналінгвістычнай прасторы.

Агульнасць і падабенства мясцовых гаворак асобнай дыялектнай мовы можа быць рознага паходжання. Гэта можа абумоўлівацца іх генетычным адзінствам, агульнасцю зыходнай асновы або быць вынікам гістарычных ці існуючых сувязей і ўзаемадзеяння паміж сабой і з іншымі мовамі. Але гэта аб'ядноўвае і адрознівае іх ад мясцовых гаворак іншых дыялектных моў, у якіх свая падобная агульнасць і блізкасць.

У склад беларускай дыялектнай мовы ўваходзяць блізкія паміж сабой мясцовыя гаворкі беларускага народа, якія ўтварыліся на працягу агульнаўсходнеславянскай і ўласнай гісторыі ў выніку развіцця славянскай моўнай спадчыны і яе ўзаемадзеяння з мовамі суседніх народаў. Паводле падабенства мясцовыя гаворкі аб'ядноўваюцца ў розныя групы. На аснове звестак пра асаблівасці мясцовых гаворак Беларусі і іх пашырэнне ў межах рэспублікі, якія ўтрымлівае «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (ДАБМ), устаноўлена наяўнасць дзвюх груповак мясцовых гаворак беларускай дыялектнай мовы — этнагенетычнай і культурна-гістарычнай.

Першаснай і найбольш важнай з'яўляецца этнагенетычная групоўка гаворак беларускай дыялектнай мовы, якая вылучаецца на падставе аднолькавых асаблівасцей гаворак, абумоўленых адзінствам іх паходжання, адзінай старажытнай асновай (прадыялектам). Сувязі паміж беларускімі мясцовымі гаворкамі і яднанні іх па рысах, якія абумоўлены аднолькавым паходжаннем, адной зыходнай асновай, а таксама адрозненні паміж такімі групамі з'яўляюцца найбольш прыкметнымі і выразнымі. Асаблівыя рысы мясцовых гаворак розных беларускіх этнагенетычных груп выступаюць або як непасрэдная спадчына ад іх старажытных моўных «продкаў», або часцей як яе натуральная гістарычная трансфармацыя, відазмяненне. Гэта групоўка мясцовых гаворак беларускай дыялектнай мовы знаходзіцца пад увагай даследчыкаў ужо даўно (І. І. Насовіч, Я. Ф. Карскі, Маскоўская дыялекталагічная камісія, П. А. Бузук і інш.). Паводле ДАБМ, мясцовыя гаворкі ў межах Беларусі аб'ядноўваюцца ў дзве буйныя этнагенетычныя тэрытарыяльныя разнавіднасці дыялектнай мовы — паўночна-ўсходні дыялект і паўднёва-заходні. Вылучаецца таксама група сярэднебеларускіх гаворак, якая з'яўляецца міждыялектнай паводле тэрытарыяльнага пашырэння і пераходнай паводле свайго характару. У якасці асобнай самастойнай этнагенетычнай групы ў складзе беларускай дыялектнай мовы вылучаюцца таксама палескія (заходнепалескія), або брэсцка-пінскія, гаворкі. Паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні дыялекты разам з сярэднебеларускай групай мясцовых гаворак утвараюць асноўны масіў гаворак беларускай дыялектнай мовы (гл. **Асноўны масіў гаворак**). Палескія мясцовыя гаворкі з'яўляюцца перыферыйнымі. Гэта частка дыялектнай групы мясцовых гаворак беларуска-ўкраінскага сумежжа. Этнагенетычныя групы мясцовых гаворак беларускай дыялектнай мовы папярэднічалі, відаць, фарміраванню яе асноўнага масіву і складанню яе ў цэлым пры фарміраванні сістэмы нацыянальнай мовы беларускага народа.

Культурна-гістарычныя еднасці, або групы мясцовых гаворак беларускай дыялектнай мовы, з'яўляюцца больш познімі ўтварэннямі. Гэта як бы вынік перагрупоўкі мясцовых гаворак па рысах аднолькавых, але набытых імі ў розных культурна-гістарычных умовах развіцця. Падобныя рысы ўзніклі або пашыраліся ў мясцовых гаворках пэўных тэрытарыяльных частак дыялектнай мовы незалежна ад іх этнагенетычнай прыналежнасці або ў працэсе іх узаемадзеяння і збліжэння ці ў сувязі з уплывам іншых моў. Гэтыя групы гаворак былі выяўлены адносна нядаўна на аснове матэрыялаў ДАБМ. У адпаведнасці з імі мясцовыя гаворкі беларускай дыялектнай мовы (у межах Беларусі) утвараюць 5 асноўных культурна-гістарычных груп, якія, у адрозненне ад дыялектаў, былі названы дыялектнымі зонамі. Гэта паўночна-заходняя, паўднёва-ўсходняя, усходняя, заходняя і цэнтральная дыялектныя зоны. Заўважаюцца і некаторыя іншыя падобныя занальныя групы мясцовых гаворак, аднак у іх пэўнасці даследчыкі яшчэ канчаткова не пераканаліся (гл. карту **«Групоўка гаворак на тэрыторыі Беларусі»** на с. 58).

Беларуская дыялектная мова выконвала і працягвае выконваць вельмі важную ролю ў складзе нацыянальнай мовы беларускага народа. На самым пачатку яго нацыянальнай гісторыі дыялектная мова, мясцовыя гаворкі былі адзіным уласна нацыянальным сродкам моўных зносін. Потым, у працэсе фарміравання сучаснай беларускай літаратурнай мовы, пэўныя групы мясцовых гаворак сталі асновай яе граматычнага ладу і фанетычнай сістэмы, найважнейшай крыніцай узбагачэння і развіцця лексічных і фразеалагічных сродкаў. Ва ўзаемаадносінах мясцовых гаворак і сучаснай беларускай літаратурнай мовы можна вызначыць некалькі этапаў.

Пачынальнікі беларускай мастацкай літаратуры і публіцыстыкі арыентаваліся ў сваёй пісьмовай моўнай дзейнасці на розныя гаворкі. «Я не сцясняю свайго дыялекту, ужываючы словы і звароты агульнабеларускія. Гэтак паступаючы, я кладу ў літаратуру свой прыродны дыялект беларускай мовы, даючы найлепшае з яго. У канцы невядома яшчэ, каторы дыялект беларускі пераможа» (Абуховіч А. Мемуары // Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя. Мн., 1971. С. 291). Такой, можна сказаць, полідыялектнай была беларуская літаратурная мова на працягу ўсяго 19 стагоддзя.

Істотны ўплыў на фарміраванне граматыкі і лексікі беларускай літаратурнай мовы зрабілі мясцовыя гаворкі паўночна-заходняй дыялектнай зоны, калі цэнтрам беларускай нацыянальнай культуры, нацыянальна-вызваленчых і рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэй была Вільня. Гэта быў бурны пачатак 20 стагоддзя, перыяд станаўлення беларускай літаратурнай мовы, стваральнікамі якой былі ў першую чаргу Янка Купала і Якуб Колас.

З прыходам у беларускую мастацкую літаратуру і публіцыстыку прадстаўнікоў мясцовых гаворак Цэнтральнай Беларусі больш уплывовымі, узорнымі робяцца іх гаворкі. Сталіцай Беларусі, цэнтрам развіцця беларускай нацыянальнай культуры стаў Мінск, дзе большасць дзеячаў беларускай літаратуры, культуры, дзяржаўных дзеячаў складалі прадстаўнікі мясцовых гаворак цэнтральнай дыялектнай зоны, якая і зрабілася асновай для выпрацоўкі норм літаратурнай мовы. Дыялектная неаднастайнасць цэнтральнай дыялектнай зоны, у склад якой уваходзяць часткамі мясцовыя гаворкі абодвух дыялектаў і сярэднебеларускай групы, ускладняла адназначнае вырашэнне пытанняў нормы беларускай літаратурнай мовы, абумоўлівала сутыкненне і канфрантацыю рознадыялектных асаблівасцей у літаратурнай арфаэпіі, граматыцы, слоўніку. Усходняя і заходняя часткі гэтай (цэнтральнай) дыялектнай зоны супрацьпастаўляюцца таксама як часткі ўсходняй і заходняй дыялектных зон, якія маюць некаторыя свае традыцыі ў культурна-гістарычнай арыентацыі, у тым ліку і моўнай. Аднак агульныя асаблівасці, характэрныя для ўсіх гаворак цэнтральнай дыялектнай зоны, сталі грунтоўнай асновай адзінства і самабытнасці сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

У апошнія дзесяцігоддзі ў беларускай дыялектнай мове развіваюцца значныя дэструктыўныя працэсы, калі разбураюцца межы паміж групамі мясцовых гаворак, нівеліруюцца і страчваюцца іх асаблівасці, выпадаюць з ужытку і знікаюць з памяці людзей мясцовыя словы і выразы.

*Літ.*: Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963; Нарысы па беларускай дыялекталогіі. Мн., 1964; Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1968—69; Бліна ва Э. Д., Мяцельская Е. С. Беларуская дыялекталогія. 2 выд. Мн., 1980; Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984.

*А. А. Крывіцкі.*

## ДЫЯЛОГ І МАНАЛОГ

Сэнс двух гэтых лінгвістычных тэрмінаў можна вывесці з іх будовы. Слова «маналог» паходзіць з грэчаскай мовы і складаецца з двух каранёў: monos адзін і logos слова, мова. З дзвюх частак складаецца і тэрмін «дыялог» — ужо вядомага нам кораня logos і прыстаўкі dia-, якая мела некалькі значэнняў, у тым ліку і значэнне скразнога руху, пранікнення, размежавання, раздзялення, узаемнасці. Значыць, маналог — гэта адзінае, як бы ні з кім не падзеленае слова (маўленне), а дыялог — падзеленае слова, узаемнае маўленне. У нямецкай мове ўтвораны вельмі ўдалыя сінонімы да грэчаскіх слоў: маналог — Selbstgespräch (па-беларуску прыкладна самаразмова, аднаразмова), дыялог — Zweigespräch (двухслоўе, двухразмова). Такім чынам, этымалагічна маналог — гэта гаворка, якую вядзе адзін чалавек, а дыялог — дзве ці болей асоб.

Чаму, аднак, гэты артыкул называецца «Дыялог і маналог», а не «Маналог і дыялог»? З гістарычнага пункту погляду дыялагічнае маўленне бясспрэчна першасная форма моўных паводзін людзей. Сапраўды, чалавек вядзе пастаянную, нават спрадвечную, бясконцую размову (параўнайце: дыялог) — з другім чалавекам, з самім сабой, з прыродай. Таму маналог, нават калі ён і вельмі вялікі і, на першы погляд, цалкам самастойны, усё роўна прызначаны для каго-небудзь. Ён з'яўляецца як бы рэплікай у вялікім несканчоным дыялогу «ўсіх з усімі», ён звернуты да нейкага суразмоўніка, хай сабе і аддаленага прасторай ці часам або нават уяўнага. Невыпадкова ёсць і такое слоўнікавае азначэнне маналога: гэта — мова дзейнай асобы, галоўным чынам у драматычным творы, выключаная з размоўных зносін персанажаў і не разлічаная на непасрэдны водгук. Заўважым: маналог — мова, выключаная з дыялога!

Найбольш агульнае азначэнне гэтых тэрмінаў такое: дыялог — форма маўлення, калі адбываецца непасрэдны абмен выказваннямі паміж дзвюма або некалькімі асобамі; маналог — форма маўлення, звернутая да тых, хто гаворыць, да самога сябе і не разлічаная на слоўную рэакцыю іншай асобы.

У працэсе развіцця грамадскага жыцця, моўных зносін і асабліва ўзнікнення і ўдасканалення шматлікіх відаў слоўнага мастацтва дыялог і маналог не толькі адасобіліся і пачалі супрацьпастаўляцца як дзве асобныя формы маўлення, але і набылі адметныя ўласцівасці. Так, маналогу ўласціва больш складаная сінтаксічная будова, большая сэнсавая глыбіня і тэматычная разнастайнасць, спецыфічныя сацыяльныя і мастацкія функцыі, адпаведная жанравая разгалінаванасць.

Звернемся да прыкладу. У трылогіі «На ростанях» Якуб Колас перадае адзін з дыялогаў Андрэя Лабановіча і Янкі Тукалы, але дыялог гэты ўключае два маналогі-тосты:

*— Дык давай, Янка, вып'ем за тых, у каго, як сакрамант, ляжыць на стале акрайчык хлеба, з такою любасцю і пашанаю загорнуты ў просценькі даматкавы абрусік. Няхай вольна, шчаслівa і багата жывуць працоўныя людзі!*

*— Глядзі ты, які з цябе прамоўца! — заўважыў Янка, а Лабановіч кульнуў чарку, наліў у яе гарэлкі і перадаў прыяцелю.*

*Янка ўзяў чарку.*

*— Хоць і вялікае маё жаданне выпіць гэту чарку, але яшчэ большае жаданне таксама сказаць што-небудзь перад тым, як выпіць. Ляці ж, маё слова, далёка ў свет! Вырвіся з гэтай нізкай хаты, дзе нават няма падлогі, прабіся праз саламяную страху, бомбаю выбухні ў панскіх палацах, у кабінетах царскіх сатрапаў і ў самой царскай рэзідэнцыі і гукні ім: «Падохніце вы ўсе, акаянныя абдзіралы, крыўдзіцелі, каты, на радасць простых працоўных людзей!» — Адным духам Янка апаражніў чарку.*

*— А здорава ты сказаў! Закасаваў ты мяне, Янка. Маладзец! — Янка ўзяў кавалачак хлеба і сала.*

*— Пры табе, Андрэй, я магу сказаць прамову, а вось калі б я выступаў перад натоўпам людзей, дык нічога не выйшла б,— прызнаўся Янка.*

*— Бо табе ж і не даводзілася выступаць перад народам. Практыка, брат, патрэбна,— падтрымаў Андрэй.*

Варта падкрэсліць, што ў гэтым урыўку пісьменнік некалькі разоў звяртае ўвагу чытача, што тут дыялог мяжуе з маналогамі. Вось гэтыя «сігналы»: Янка хваліць Лабановіча, называючы яго «прамоўцам»; сам ён хоча сказаць «што-небудзь» (дыялог такой вольнасці звычайна не дапускае); Тукала свой тост гаворыць «пры табе, Андрэй», а не непасрэдна Андрэю, як патрабуе рэпліка ў дыялогу; Лабановіч падкрэслівае, што для таго, каб навучыцца добра «выступаць перад народам», патрэбна «практыка», г. зн. навучанне маналагічнай форме маўлення.

У адрозненне ад маналога, які вылучаецца пэўнай незалежнасцю ад непасрэднай, жывой, натуральнай сітуацыі маўленчых зносін, дыялог

звычайна цесна звязаны з такой сітуацыяй, абмежаваны актуальнай тэматыкай размовы, складаецца з адносна кароткіх выказванняў-рэплік, суправаджаецца паралінгвістычнымі сродкамі маўлення. Сінтаксічная будова рэплік у параўнанні з маналогам значна прасцейшая, напрыклад:

— *Ужо ў хату пойдзеш?*

— *Але.*

— *Жывёлу панапойваў?*

— *Няўжо ж не!*

— *Дык сядзі ў хаце ціха, не стукай нічым.*

— *Хаця ты не стукай, а я то не стукаю.*

— *Не стукаеш! А ўчора маму пабудзіў.*

— *Бо мне трэба было палена раскалоць на падпал.*

— *Дык не мог ты ў сенцы выйсці!*

— *Усё роўна, і ў сенцах стукае.*

— *От, яшчэ будзеш аскірзацца!*

— *А што ж!* (К. Чорны).

У пісьмовым маўленні ў дыялог уключаюцца словы трэцяй асобы, якая каменціруе дыялог (так званыя словы аўтара):

— *Бацька, скажы ты мне, навошта загінулі гэтыя хлопцы?*

*Іван Васільевіч не зразумеў, здзівіўся і ўстрывожыўся: чаму раптам такое пытанне?*

— *Як навошта? На вайне загінулі мільёны.*

— *Дваццаць мільёнаў. Гэтая я ведаю. Але навошта быў гэты дэсант?* (І. Шамякін).

Асобныя выказванні субяседнікаў — гэта рэплікі-стымулы і рэплікі-рэакцыі. Рэплікі-стымулы найчасцей выражаюць:

1) зварот да асобы:

*Дзяўчынка ляжала ціха і нерухома, як нежывая.*

— *Ліда! — яшчэ раз аклікнуў яе настаўнік.*

*Ліда не паварушылася і голасу не падала. Настаўнік палажыў руку на яе галоўку, пагладзіў валасы.*

— *Лідачка, што з табою?..* (Я. Колас).

2) паведамленне:

— *Прыйшоў пазнаёміцца. Ваш сусед, Язва Міхаіл Аляксандравіч.*

— *Чарскі Дзям'ян Дзям'янавіч. Гэта мая жонка* (К. Крапіва).

3) пытанне:

*...Лімонныя, барвяныя, іржава-чырвоныя лісты клёнаў стракатай мазаікай ляжалі на зямлі. Дзяўчына нагнулася і стала збіраць іх. Хлопец дапамагаў.*

— *Ты дзе спынілася?*

— *У сваякоў. Станцыя па Яраслаўскай дарозе.*

— *Ведала, што я тут?*

— *Нядаўна даведалася.*

— *Здзівілася?*

— *Не вельмі.* (У. Караткевіч).

4) пабуджэнне:

— *Дай мне аловак!*

— *Дык ён жа зламаны.*

— *Ідзі завастры.*

— *Добра. Зараз.*

Рэплікі-рэакцыі могуць быць самымі разнастайнымі як па семантыцы, так і па функцыі (адказ, сустрэчнае пытанне, удакладненне, пярэчанне і пад.) і структуры (поўны сказ, слова-сказ, няпоўны сказ, сказ-клішэ і г. д.). У дыялогу рэплікі-стымулы і рэплікі-рэакцыі цесна ўзаемазвязаны. Гэта сувязь выражаецца ў іх сітуацыйна-тэматычнай агульнасці, у інтанацыі, у асаблівасцях іх лексічна-граматычнай структуры.

Бытавым дыялогам уласціва наяўнасць рэплік-клішэ тыпу *Як жывяце? Што новага чуваць? Ты куды? Усяго добрага! Выбачайце, калі ласка!* і пад.

*Літ.*: Изаренков Д. И. От грамматики к диалогу. М., 1977; Славгородская Л. В. Научный диалог: (Лингв. проблемы). Л., 1986. *А. Я. Міхневіч.*

## «ДЫЯРЫУШ» А. ФІЛІПОВІЧА



«Тое село переѣхавши, власне въ дубрави, южъ при заходѣ солнца, барзо великая туча мене зъ послушникомъ огорнула, ажъ послушникъ заволалъ: «што то для Бога!» и почалъ собою трвожити. Я зась, якъ бы въ восхищеню будучи, правдиве слышалемъ ретельный голосъ таковый: «о Аѳанасій, иди до Царя Михаила и рци ему: звитяжай непріатели наши; бо южъ часъ пришолъ, мѣй образъ Пречистое въ крестѣ Купятицкій на хоругвяхъ военныхъ для милосердя; а въ битви той каждого чловѣка, мянуючогося православнымъ, здорово заховай». Так апісвае беларускі пісьменнік-палеміст 17 ст. Афанасій Філіповіч у сваіх успамінах, названых ім «Дыярыушам» (польск. diariusz дзённік, часопіс, запіскі, ад лац. dies дзень), прыгоды, якія адбыліся з ім у час паездкі ў Маскву да цара Міхаіла Фёдаравіча па ялмужну (міласціну) для Купяціцкай манастырскай царквы каля Пінска і каб схіліць цара пачаць вайну за вызваленне Беларусі і Украіны ад польскага панавання.

Нарадзіўся Афанасій Філіповіч каля 1597 г. на Брэстчыне ў сям'і рамесніка. Атрымаўшы добрую па тым часе адукацыю, працаваў настаўнікам пры дварах праваслаўнай шляхты. З 1620 г. на службе ў канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі інспектарам (хатнім настаўнікам) пры будучым самазванцы Яне Фаустыне Лубе. У 1627 г. Афанасій Філіповіч, пераканаўшыся ў тым, што Луба не рускі царэвіч, пакідае службу ў Сапегі і пастрыгаецца ў манахі. У 1637 г. ён накіроўваецца ў Маскву да цара Міхаіла Фёдаравіча па ялмужну і адначасова паведамляе яму пра тое, што ў Рэчы Паспалітай рыхтуецца новы самазванец на маскоўскі трон — Луба. За выступленне ў Варшаве на сейме з рэзкай, палітычна завостранай суплікай (прамовай) у адрас польскага караля Уладзіслава Афанасій Філіповіч прыцягваўся да суда, але быў рэабілітаваны. Пазней за паведамленне рускаму паслу князю Львову пра тое, што Луба — самазванец, Афанасій Філіповіч як дзяржаўны злачынца быў зняволены. Там ён напісаў некалькі публіцыстычных артыкулаў, накіраваных супраць унутранай і знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай і пануючых у дзяржаве каталіцкай і уніяцкай цэркваў. За гэта быў сасланы ў Кіеў пад нагляд мітрапаліта Пятра Магілы. За час гэтай ссылкі Афанасій Філіповіч аб'яднаў свае артыкулы пад адзінай назвай «Дыярыуш». У 1648 г. польскія ўлады яго зноў арыштоўваюць, абвінаваціўшы ў дапамозе казакам Багдана Хмяльніцкага, і, нягледзячы на тое, што віна не была даказана, ён быў пакараны смерцю ў верасні 1648 г.

У «Дыярыуш» уваходзяць: «Навіны», «Фундамент непарадку касцёла рымскага», «Супліка трэцяя», «Прыгатаванне на суд», «Парада пабожная», «Аб фундаменце царкоўным», «Тлумачальная запіска суду духоўнай кансісторыі», «Парада каралю». На мове гэтых твораў адбілася складаная палітычная сітуацыя на Беларусі ў 17 ст., калі пасля ўваходу беларускіх зямель у выніку Люблінскай уніі ў склад Рэчы Паспалітай актыўна ажыццяўлялася паланізацыя мясцовага насельніцтва. Таму беларуская мова ў той час была насычана паланізмамі да такой ступені, што іх ужо не маглі не ўжываць і праваслаўныя, у тым ліку і Афанасій Філіповіч. «Дыярыуш» напісаны беларускім скорапісам. Графічная сістэма тыповая для свецка-мастацкай разнавіднасці пісьменства, да якога належыць помнік. Часта ўжываецца літара **ѣ**, прычым і на месцы *е*: ***мѣеста, роздѣлилося, повѣ ты і нѣ котором, вѣ чностю, жолнѣрови***; як і ў іншых помніках, для абазначэння гука [о] ужы-



**«Дыярыуш» А. Філіповіча. 1646.**

ваюцца дзве літары — ω і о, гука [у] — літары ȣ і у, ужываюцца літары ѯ (ксі) і ѱ (псі), невядомыя ўжо многім тагачасным старабеларускім помнікам. У галіне фанетыкі адсутнічае аканне (як і ў большасці тагачасных помнікаў старабеларускага пісьменства); пасля шыпячых *е* пераходзіць у *о: жоною, примушоный, шолъ, чого, поджогою, чотырох*; пераход *л* у *в* адзначаны толькі ў адзінкавых выпадках: *вишов, выригнув; в* перад зычнымі ў большасці выпадкаў пераходзіць у *у: у вилни, у львови, у варшави*, але: *в варшаве, в собѣ в лѣто; р* звычайна цвёрдае, але сустракаюцца і традыцыйныя напісанні з мяккім *р: римляне, выритое, риму; ц* пераважна цвёрдае, але маюць месца і напісанні з *ц* мяккім: *б(огороди)ци, в кройници, в тр(ои)ци*; найчасцей перадаецца цвёрдасць шыпячых, але часта сустракаюцца і напісанні з мяккімі шыпячымі: *видячи, нареченых, уседши.* У галіне марфалогіі ў назоўніках роднага склону адзіночнага ліку са старым канчаткам *-а/-я* ў адпаведнасці з нормай жывой мовы ўжываюцца назоўнікі мужчынскага роду адушаўлёныя: *князя, кроля, ксенза, лва, мужа, пана, посланца, священника, христианина*, а таксама назоўнікі неадушаўлёныя абстрактныя: *образа, престола, света*; геаграфічныя паняцці: *бреста, киева, кракова, пинска, слуцка*; назвы месяцаў, адрэзкаў часу: *вечера, мая, полудня, септемврия*; канчатак *-у/-ю* маюць звычайна назвы канкрэтных прадметаў *(листу, народу, пашпорту, шкрипту)*, аддзеяслоўныя назоўнікі *(всходу, заходу, розезду, упадку)*, аднак з канчаткам *-у/-ю* могуць ужывацца і назоўнікі абстрактныя *(гневу, закону, повету, розуму, смыслу, стану)*; з традыцыйным канчаткам *-у/-ю* ў давальным склоне адзіночнага ліку ўжываюцца назоўнікі мужчынскага роду неадушаўлёныя *(встыду)* і адушаўлёныя *(господину, кролю, пану, царю, человеку)*, з канчаткам *-ови/-еви*, якія пашыраўся пад уплывам польскай мовы, ужываюцца звычайна адушаўлёныя назоўнікі *(гайдукови, добродееви, епископови, жигимонтови, родичови, чернцови)*; назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку ў месным склоне адзіночнага ліку маюць пераважна ранейшы канчатак *-е/-ѣ (о животе вечном, хвост висит на заде, во сне, о поясе).* Новы канчатак *-у/-ю* сустракаецца толькі ў некалькіх выпадках *(о иноческом чину, в том же порядку, в следу)*; звяртае на сябе ўвагу канчатак *-и*, які з'яўляецца адлюстраваннем вымаўлення *ѣ*, уласцівага ўкраінскай мове: *в варшави, на дереви, на дорози, в киеви, в мѣсти, в покори, в роздѣли, на сейми*; назоўнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне множнага ліку часта ўжываюцца з канчаткам *-ы/-и*, якія адпавядаў норме жывой мовы: *артыкулы, владцы, голосы, екзархи, митрополиты, наместники, обыватели, смыслы, сыны*; адушаўлёныя назоўнікі з канчаткам *-ове/-еве: владыкове, ляхове, отцеве, панове, птахове, сватове*, у давальным склоне гэтыя назоўнікі маюць ранейшы канчатак *-омъ/-емъ: бурмистромъ, войтомъ, жолдакомъ, лавникомъ, райцомъ, сенаторомъ, униатомъ*; новы канчатак *-ами/-ями* пераважае ў творным склоне: *бискупами, звычаями, козаками, кролями, листами*, радзей сустракаецца стары канчатак *-ы/-и*, амаль не ўласцівы жывой мове *(паны христианскими, вечными часы)*; у месным склоне шырока прадстаўлены новы канчатак *-ахъ/-яхъ*, які стаў нормай сучаснай беларускай літаратурнай мовы: *в поветахъ, при педагогахъ, на пергаментах*, побач з гэтым часта сустракаецца і стары канчатак *-охъ/-ехъ: в часехъ, въ недрузехъ, в людехъ.* У пераважнай большасці выпадкаў ужываецца займеннік 1-й асобы адзіночнага ліку *я*, зрэдку ўжываецца і царкоўнаславянскі адпаведнік *азъ*; у давальным і вінавальным склонах побач з поўнымі формамі асабовых займеннікаў *(мне, тобе, мене, тебе)* шырока прадстаўлены і кароткія *(ми, ти, мя, тя)*, хоць яны ўжо не маюць сталай пазіцыі ў адносінах да кіруючага дзеяслова: *знову ехати ми пришло, слухати мене, взяти мене до везеня, под брамою мяобскочили, отдати мене*; сустракаецца сцягнутая форма давальнага склону займенніка 3-й асобы *му*, крыніцай якой з'яўляецца польская мова: *в лобъ му стрелил з мушкета.* Не без уплыву польскай мовы ўжываюцца кароткія формы вінавальнага склону займенніка 3-й асобы мужчынскага роду *нь* і жаночага *ю: без позву нань сталъ, не прегрешит вси уповающии нань, отсеци ю, воздвигну ю*; у назоўным склоне множнага ліку гэты займеннік ужываецца як у традыцыйнай форме *они*, так і ў іншых, больш блізкіх да жывой мовы разнавіднасцях *оны, ены.* Для ўказання на аддалены прадмет ужываюцца два займеннікі — традыцыйны *тотъ* і характэрны для жывой мовы *тои*; ва ўскосных склонах множнага ліку апошні ўжываецца ў формах, якія сталі нормай беларускай мовы *(тыхъ, тымъ, тыми)*; побач з *што* ўжываецца займеннік *шо*; пытальныя займеннікі ў творным склоне маюць уласцівыя жывой мове формы *кимъ, чимъ.* Адсутнічаюць кароткія формы прыметнікаў; у родным склоне адзіночнага ліку прыметнікі мужчынскага роду маюць пераважна ўсходнеславянскі канчатак *-ого/-его (виленского, грецкого, досконалого, жадного, людского, старого, чистого).* У царкоўных выразах ужываецца і царкоўнаславянскі канчатак *-аго/-яго (немощнаго, преподобнаго, церковнаго, честнаго).* Помнік вылучаецца з ліку многіх іншых старабеларускіх тэкстаў перавагай у родным склоне форм прыметнікаў жаночага роду са сцягнутым канчаткам *-ой/-ей*, які стаў нормай беларускай мовы *(бозской, братерской, восточной, доброй, духовной, единой, жадной, проклятой, святой)*, ранейшы двухскладовы канчатак ужываецца радзей: *кролевское, лепшое, посполитое, православное*; у месным склоне пераважаюць традыцыйныя формы прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду з канчаткам *-омъ/-емъ (в веліком преслядованю, в беломъ оденю, в поле рицерскомъ)*, прыкметна прадстаўлены і ўласцівы жывой мове уніфікаваны па творным склоне канчатак *-ымъ/-имъ (о грунтовнымъ успокоеню, в нерядным дому, в крестнымъ знаку)*; у назоўным склоне множнага ліку пераважае ўласцівы раней толькі жаночаму роду канчатак *-ые/-ие*, які адпавядаў норме жывой мовы: *бедные, берестейские, великие, гневливые, голые, розные, церковные*; традыцыйны канчатак *-ыи/ии* сустракаецца радзей: *вели-*

*кии, свѧтыи, страшныи, церковныи.* Формы ступеняў параўнання якасных прыметнікаў утвараюцца пераважна пры дапамозе ўласцівага жывой мове суфікса *-ейш- (грунтовнейший, истиннейший, невернейший; подлейший)*, традыцыйны суфікс *-ш-* ужываецца радзей, прычым звычайна пры суплетывізме асноў: *лепший, нижший, простиший.* Найвышэйшая ступень параўнання ўтвараецца найчасцей пры дапамозе традыцыйнай прыстаўкі *най- (найближний, найвышший, найгорший, найлепший, найсолодший)*; побач з ёю выкарыстоўваюцца і сцягнутая прыстаўка польскага паходжання *на-* і прыстаўка *пре-*, якая магла быць як польскага, так і царкоўнаславянскага паходжання *(наяснейшый, пренайдорожший, пресветлый).* Нетэматычныя дзеясловы ўтвараюць формы 1-й асобы адзіночнага ліку на ўзор тэматычных *(ведаю, даю, маю)*, у ранейшых формах ужываецца звычайна дзеяслоў *быти (есмъ)* і зрэдку — *имети (имамъ)*; у 3-й асобе адзіночнага ліку выступае пераважна флексія *-ть (волаеть, дотыкаеть, застаеть, лежить, мает, мовит, приводит, роспорошает, хвалит).* Уплывам жывой мовы тлумачыцца спарадычнае ўжыванне форм без *-ть (еде, каже, може, мянуе, хоче)*; у 1-й асобе множнага ліку дзеясловаў асноўнае месца займае традыцыйны канчатак *-мъ (доразумеваемъ, запечатуемъ, заседаемъ, маемъ, подаемъ, позволюемъ, придаемъ, розумеемъ)*, сустракаецца і канчатак *-мо*, як вынік уплыву мясцовых паўднёва-заходніх беларускіх гаворак. У 3-й асобе множнага ліку часта ўжываецца форма *суть* дзеяслова-звязкі *быти*; у якасці асноўнай формы прошлага часу дзеяслова ўжываецца перфект, прычым часта — без асобнага дзеяслова-звязкі *(послалъ мѧ, розделилосѧ кнѧзство, то был пёс, за руку уелъ, диакона абнажил и выгнал)*, формы са звязкай даволі рэдкія: *подкинули есте, росказали есмо, дали есмо,* прыкметна пашыраны формы злітнага перфекта, крыніцай якога з'яўляецца польская мова *(вернулемсѧ, вступилемъ, выехалем, плакалем, реклемъ, ударилемъ, шолемъ, взышлисмо, ехалисмо, зблудилисмо, приблукалисмосѧ, приехалисмо, пыталисмо).* У царкоўнаславянскіх выразах сустракаецца аорыст *(он же глаголаше о церкви, идоша, радующесѧ, сподобиласѧ бесчестие приати, возваша праведных, г(оспо)д услыша их)* і імперфект *(ѩвисѧ тайны, ѩже слышахъ и видехъ чувствами моими)*, хоць гэтыя выразы можна лічыць царкоўнаславянскімі цытатамі ў тэксце помніка. Формы загаднага ладу 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку ўтвараюцца пераважна пры дапамозе часціцы *нехай*, крыніцай якой з'явілася народная мова *(кождый нехай зрозумееть, нехай будет воля б[о]жая с тобою, нехай езуиты ведают)*, побач з гэтым сустракаецца і кніжная часціца *да (да имееть клѧтву, да крепитсѧ сердце твое, да будет дом ваш пуст).* Формы інфінітыва маюць традыцыйны нясцягнуты канчатак *-ти (жити, лечити, обернути, помогати, приймати, указати, чинити)*; дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану ўтвараюцца пераважна пры дапамозе ўсходнеславянскіх суфіксаў *-уч-/-юч-, -ач-/-яч- (бегучую, будучого, едучому, мешкаючих, найдуючийсѧ, седѧчого, спротивлѧючийсѧ)*, побач з гэтым сустракаюцца і царкоўнаславянскія суфіксы *-ущ-/-ющ-, -ащ-/-ящ (возвращающуюсѧ, собирающесѧ, укреплѧющим, умирающим).* Аснову лексічнага складу «Дыярыуша» побач з агульнаславянскай лексікай складаюць словы ўласнабеларускія *(кривдник, наглѧдник, марнотравне, мерковати, пестун, селѧнин, склепик).* Праваслаўным веравызнаннем аўтара тлумачыцца ўжыванне значнай колькасці царкоўнаславянізмаў *(благодеяние, благолепие, вопрошати, вредъ, уничижение, успение, чадо).* Пры жыцці аўтара пасля Люблінскай уніі на беларускіх землях актыўна пашыралася польская мова, чым тлумачыцца значны пласт паланізмаў, асобныя з якіх ужыты тут упершыню *(ворокъ* 'мяшок', *вчесне* 'рана', *гмин* 'просты народ', *дворовати* 'насміхацца', *доперо* 'ледзь толькі', *захвиценье* 'захапленне', *оршак* 'світа, картэж', *проклусатисѧ* 'праехацца рыссю', *ретелный* 'сумленны', *теразнейший* 'цяперашні', *хелпитисѧ* 'хваліцца', *ютро* 'раніца'); нешматлікія германізмы з'яўляюцца вайсковымі тэрмінамі *(варта, гвардеѧ, капитан, мушкет, офицер, реймент, цекавза)*; сустракаецца таксама і пэўная колькасць лацінізмаў *(бaнициѧ* 'выгнанне', *инспектар, инстигаторъ* 'судовы абвінаваўца', *колега, комедиа, медиатор* 'пасрэднік', *пашпорт, публика, студент, форум, юриста).* Рукапіс твора змешчаны ў канцы «Толковой псалтыри», якая захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве. Надрукаваны ў «Рускай гістарычнай бібліятэцы» (т. 4, Спб., 1878), «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы» (ч. 1, Мн., 1961). Мова «Дыярыуша» вывучалася А. І. Жураўскім, Е. І. Кедайтэне.

*Літ.:* Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Ч. 1. Мн., 1967.

*У. М. Свяжынскі.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Хто адрокся сваіх,*
*Хто стыдацца нас стаў*
*І прыліп да чужых,—*
*Каб ён свету не знаў!*
*Мову родную хто*
*Пазабыў, асмяяў,*
*Загубіў за нішто,—*
*Каб ён свету не знаў!*

Гальяш Леўчык



**Е** — *шостая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай* **є** *(''есць''), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай* **є** *(«эпсілон»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала галосны гук э пасля мяккіх зычных і спалучэнне гукаў* йэ (векъ — *«в'эк»*, зелье — *«з'эл'йэ»*). *Мела таксама лічбавае значэнне «пяць», з дадатковымі значкамі ≠е — 5 000, ⓔ — 50 000, (е) — 500 000, :е: — 5 000 000. У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скарапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах (найбольш характэрныя — Є, є, ɛ ), якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваццa як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае нелабіялізаваны галосны гук э пярэдняга рада сярэдняга пад'ёму і мяккасць папярэдняга зычнага* (вецер — *«в'эц'эр»*), *а ў пачатку слоў, пасля галосных,* ў, ь *і апострафа — спалучэнне гукаў* йэ (елка — *«йэлка»*, таемны — *«тайэмны»*, здароўе — *«здароўйэ»*, кальe — *«кал'йэ»*, п'еса — *«пйэса»*). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ЕЭС). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «шосты» (група «Е»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (пункт № 6е).* *А. М. Булыка.*

## «ЕВАНГЕЛЛЕ» В. ЦЯПІНСКАГА



«Евангелле» В. Цяпінскага — першы і адзіны вядомы цяпер пераклад евангелля на старабеларускую мову 2-й паловы 16 ст. (за выключэннем пазнейшых невялікіх урыўкаў з «Евангелля» Каліста 1616 г., якія з'яўляюцца самастойнымі перакладамі выдаўцоў, а не передрукам выдання В. Цяпінскага). Яго перакладчык і выдавец Цяпінскі (Амельяновіч) Васіль Мікалаевіч (каля 1540 — каля 1603) вядомы на Беларусі як гуманіст-асветнік, дзеяч рэфармацыйнага руху, пісьменнік, які паклаў пачатак перакладу на беларускую мову кніг Новага запавету. Атрымаў універсітэцкую адукацыю. Супрацоўнічаў з С. Будным. У 1570-я гады В. Цяпінскі на свае сродкі заснаваў друкарню, відаць, у сваім радавым маёнтку Цяпіна (цяпер аднайменная вёска ў Чашніцкім раёне), у якой выдаў перакладзеныя цалкам евангеллі ад Мацвея і Марка і пачатак евангелля ад Лукі.

«Евангелле» стылізавана пад віленскія выданні Ф. Скарыны (шрыфты, ініцыялы, арнамент). Тэкст яго надрукаваны ў 2 слупкі — на царкоўнаславянскай і беларускай мовах, са шматлікімі глосамі, спасылкамі на літаратурныя крыніцы. Пераклад на беларускую мову самастойны, добра апрацаваны. Да кнігі В. Цяпінскі напісаў прадмову ў абарону беларускай культуры (захавалася ў рукапісе, магчыма, чарнавіку) — адзін з лепшых узораў публіцыстыкі таго часу. Як вынікае з яе, мэтай сваёй асветніцкай дзейнасці В. Цяпінскі лічыў уздым нацыянальнай культуры, асветы, кнігадрукавання, умацаванне грамадскіх пазіцый народнай мовы, абуджэнне грамадскай актыўнасці і нацыянальнай свядомасці беларускага народа. Але шлях да гэтай мэты быў звязаны для яго са значнымі цяжкасцямі і матэрыяльнымі выдаткамі пры арганізацыі «убогои друкарни», пошукам неабходных для падрыхтоўкі выдання «книг стариг давних на розных і неблизких местцах», неразуменнем і нават пагардай з боку прадстаўнікоў маёмных слаёў грамадства. Выдаўшы «Евангелле» паралельна на дзвюх славянскіх мовах — царкоўнаславянскай і беларускай В. Цяпінскі тым самым падкрэсліў гістарычную і моўную роднасць славянскіх народаў, выказаў павагу да іх культурнай спадчыны. Разам з сацыяльнай абмежаванасцю і ілюзорнасцю разлікаў на духоўнае адраджэнне буйной шляхты яго дзейнасці ўласцівы і рысы дэмакратызму. Аўтар з болем адзначае, што «вже некоторые и писмом се своимъ а злаща в слове б(о)жемь встыдают А на ѡтаток што может быти жалоснейшаѩ, што шкарадша, ижъ і тые, што се межи ними зовут дховными и ȣчители, смѣле мовлю, намней его не вмеют, намней его вырозȣменѩ не знают, ані се в нем цвичат, але и ани школы коу наȣце его, нигде не мают, зачим в полскіе, або в иные писма за такою неволею, немало и оу себе и дети, не без встыдоу своего, бы се одно почули немалого заправоуют». Дзейнасць В. Цяпінскага садзейнічала ўздыму шырокага нацыянальна-культурнага і патрыятычнага руху на Беларусі ў канцы 16—



**«Евангелле» В. Цяпінскага (першая старонка). Каля 1580.**

пачатку 17 ст. Акрамя «Евангелля» ён меў яшчэ намер выдаць Катэхізіс. У Супрасльскім зборніку (зберагаецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу) перад прадмовай да «Евангелля» В. Цяпінскага змешчаны «Катехисисъ або соума Науки детеи въ христе Исусе» (магчыма, тэкст В. Цяпінскага).

Мова самога выдання значна больш апрацаваная, чым мова прадмовы. Правапіс кнігі мае шмат агульнага з правапісам папярэдніх друкаваных кніг (Ф. Скарыны, С. Буднага), аднак ёсць і новыя рысы: побач з *и* часта ўжываецца *і*, што тлумачыцца чыста друкарскімі мэтамі — імкненнем змяшчаць царкоўнаславянскі і беларускі пераклады асобных тэкстаў на адным і тым жа ўзроўні; на месцы *ѣ* часта друкуецца *е*, літара *ь* часта паяўляецца для перадачы ўласцівай беларускай мове асімілятыўнай мяккасці зычных *(злосьть, масьть, радосьть, сьветъ, сьвиренъ)*, адпаведна замест *ѧ* царкоўнаславянскага тэксту ў беларускім часта сустракаецца *е (бремѧ — бреме, семѧ — семе, тысѧщи — тысечеи)*; у беларускім тэксце знайшлі адлюстраванне найважнейшыя рысы жывой беларускай мовы (параўнайце *сердце — серцо, жена — жона, уже — ужо, человекъ — чоловекъ*).

Назоўнікі мужчынскага роду ў беларускім тэксце ў родным склоне адзіночнага ліку больш частыя з канчаткам *-у/-ю (вѣка — веку, гласа — голосу, закона — закону, кваса — квасу)*, у давальным склоне — з канчаткам *-у/-ю* адпаведна неўласціваму паўночна-ўсходнім гаворкам канчатку *-ови/-еви (богови — богу, дневи — дню, иродови — ироду)*, у адрозненне ад гэтага ў многіх іншых тагачасных старабеларускіх тэкстах пад уплывам польскай мовы канчатак *-ови/-еви* набыў значнае пашырэнне; у назоўным склоне множнага ліку канцавыя *г, к, х* асноў у беларускім тэксце ў адрозненне ад царкоўнаславянскага не чаргуюцца са свісцячымі *(волцы — волки, врази — вороги, греси — грехи)*.

Кароткім асабовым займеннікам давальнага *(ми, ти, си)* і вінавальнага *(мя, тя, ся, ны, вы)* склонаў у беларускай частцы адпавядаюць поўныя *(мне, тобе, собе* і *мене, тебе, себе, насъ, васъ)*.

Кароткія прыметнікі назіраюцца толькі ў прэдыкатыўнай функцыі, у ролі азначэння — поўныя: *плода добра* (царкоўнаславянская частка) — *овощу доброго* (беларуская частка), *мужу мудру — мужу мудрому, на гору высоку — на гору высокую*; у родным склоне адзіночнага ліку царкоўнаславянскі канчатак *-аго* замяняецца ўсходнеславянскім *-ого (великаго — великого, небеснаго — небесного, хлебнаго — хлебного)*; тром канчаткам назоўнага склону множнага ліку ў залежнасці ад роду ў беларускім тэксце адпавядае адзін *-ые/-ие (приступиша к нему хроміи и слепии — приступили к нему хромые и сълепые, власи главнии — волосы головные, безводнаѧ места — безводные места)*.

Простым формам прошлага часу дзеяслова — аорысту і імперфекту — адпавядае перфект, прычым без дзеяслова-звязкі ў 3-й асобе *(бысть — был, умре — умеръ, видеша — увидели, начаша — почали)*. Адзіным граматычным паланізмам у В. Цяпінскага з'яўляецца так званы злітны перфект: *быломъ, хотеломъ*. Формы 2-й асобы адзіночнага ліку ўжываюцца толькі з канчаткам *-ш (будеши — будеш, видиши — видиш, жнеши — жнеш)*. Аналагічная з'ява і ў формах загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку *(буди — будь, вѣстани — вѣстань, избави — избавь)*. У множным ліку на месцы ранейшага канчатка загаднага ладу *-ете* ў адпаведнасці з нормай родных для В. Цяпінскага паўночна-ўсходніх гаворак Беларусі выкарыстоўваецца *-ите (возмете — возмите, зовете — зовите, идете — идите)*. Побач з ранейшымі формамі інфінітыва на *-и*, якія пераважаюць у В. Цяпінскага, пашыраны і новыя на *-ть (быть, дать, забить, искать)*, якія ўвогуле былі яшчэ рэдкай з'явай у пісьменстве таго часу. Адпаведна царкоўнаславянскім дзеепрыметнікам узнікаюць беларускія *(имый — маючий, просяй — просячий, будущаго — будучого, живущимъ — живучимъ, пасущии — пасучие)*; дзеепрыслоўям на *-а/-я* адпавядаюць беларускія на *-учи/-ючи (имея — маючи, ища — ищучи, падая — падаючи)*.

Сінтаксічныя канструкцыі з дапаўненнем — адушаўлёным назоўнікам у вінавальным склоне — у беларускім тэксце перадаюцца адпаведнымі беларускімі — з дапаўненнем у родным склоне *(виде два брата — увиделѣ двухъ братов, бесы многи изгна — бесовъ многіхъ выгналъ)*. Састаўному выказніку ў форме назоўнага склону царкоўнаславянскага тэксту ў беларускім раўназначны састаўны выказнік у творным склоне *(скорбни бышѧ зело — смутными были велми)*. У адмоўных сказах у беларускім тэксце ў адрозненне ад царкоўнаславянскага паўтараецца адмоўе *(никъто же весьть — никто не ведаеть, никого же видеша — никого не видели)*. Разам з тым у сінтаксісе адчуваецца ўплыў царкоўнаславянскага арыгінала: так, зварот «давальны самастойны» В. Цяпінскі імкнецца перадаваць як мага бліжэй да арыгінала, замяняючы ў ім толькі дзеепрыметнік у форме давальнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду формай назоўнага або давальнага склону жаночага роду *(и седшу ему, приступиша к нему ученицы его — и седши ему, приступили к нему ученики его)*.

У лексіцы царкоўнаславянскім няпоўнагалосным формам найчасцей адпавядаюць беларускія поўнагалосныя *(брегъ — берегъ, власъ — волосъ, глава — голова, древо — дерево, класъ — колосъ, облакъ — оболокъ, сребро — серебро)*. Словы з агульнаславянскімі каранямі адрозніваюцца ў царкоўнаславянскай і беларускай частках фанетычна *(имети — мети, седмѣ — семь, ясти — ести)*, у словаўтваральных адносінах *(воздати — отдати, востати — повстати, кончина — сконченье, мятва — мята, убити — забити)*, іншымі каранямі *(беседа — розмова, верыга — ланцугъ, вопль — крикъ, выя — шия, житница — гумно, зло — лихо, луна — месець, мучитель — катъ, одръ — кровать, путь — дорога)*. Сустракаюцца і ўласцівыя тагачаснай беларускай мо-

ве паланізмы *(жолнеръ, зрада, лихтарь, маетность, офера, рада, уфъ, члонокъ)*.

В. Цяпінскі праявіў сябе ў выданні і як вучоны-філолаг: ім выкарыстана каля 210 глосаў-тлумачэнняў незразумелых слоў на палях. Глосы падзяляюцца на тлумачальныя *(васни — гневу, жерела — источника, пожерытыхъ — поглощеныхъ)*, тэксталагічныя — указанні на розначытанні ў іншых крыніцах *(совещавъ съ делатели по пенязю* на день — в апъракасе по сребряніку, але и в тетре видечи того слова розный выклад у Луки 7, с. 41, греческое слово «динарь» оставилъ)*, этымалагічныя — калі даецца паходжанне слова пры дапамозе паметаў «то слово греческое, то слово еврейское», спасылачныя — калі робіцца спасылка на тлумачэнне гэтага слова, што было на папярэдніх старонках выдання. Захаваліся 2 экземпляры «Евангелля» В. Цяпінскага. Адзін з іх — у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу ў складзе Супрасльскага зборніка 16 ст., другі — у Архангельскім краязнаўчым музеі. Мову помніка вывучалі М. В. Доўнар-Запольскі, А. І. Жураўскі.

*Публ.:* Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959. С. 196—201; Прадмова // Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1. Мн., 1961. С. 161—173 (разам з урыўкамі з «Евангелля»).

*Літ.:* Довнар-Запольский М. В., В. Н. Тяпинский, переводчик евангелия на белорусское наречие // Известия ОРЯС. 1899. Т. 4; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967. *У. М. Свяжынскі.*

## ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ

Старажытнабеларуская хрысціянская асветніца, першая жанчына на Русі, кананізаваная праваслаўнай царквою. Дачка полацкага князя Святаслава (Георгія) Усяславіча, унучка князя Усяслава Брачыславіча (Чарадзея). Ефрасіння Полацкая (свецкае імя Прадслава) нарадзілася каля 1110 г. Паводле «Жыція Ефрасінні Полацкай» (помніка агіяграфічнай літаратуры 12—13 ст., захаваўся спіс 14 ст.), мудрая, адукаваная і прыгожая князёўна адмовілася ад выгаднага шлюбу, пастрыглася ў манашкі і, пасяліўшыся ў келлі Сафійскага сабора, вяла пустэльніцкі лад жыцця, перапісвала святыя кнігі. Мяркуюць, што пісала летапісы і арыгінальныя творы. Пазней стала выдатным дзеячам культуры і праваслаўнай царквы, заснавала Полацкі Святога Спаса (Спаса-Ефрасіннеўскі) жаночы манастыр, дзе была ігуменняй, арганізавала там падрыхтоўку і выданне рукапісных кніг. У ансамблі



гэтага манастыра — шэдэўр старажытнабеларускай архітэктуры Спаса-Ефрасіннеўская царква, пастаўленая на заказ Ефрасінні Полацкай дойлідам Іаанам, і царква Маці Боскай.

Агіяграфічная літаратура малюе Ефрасінню Полацкую жанчынай незвычайнай духоўнай прыгажосці і абаяльнасці, асветніцай, якая была пераканана: «Вся видимая міра сего красна суть и славна, но вскоре минует, яко сон, или цветъ увядает; вечная же, невидимая, во веки пребывает...» [Житіе Преподобныя Евфросиніи княжны Полотскія (По трем редакциям). Выд. А. Сапунова. Віцебск, 1888. С. 5]. Спачатку яна «нача книгы писати своими руками». Пад яе рэдакцыяй і кіраўніцтвам працавалі таксама адукаваныя перапісчыкі. Пазней яна прыняла ў манастыр родную сястру Градыславу (Еўдакію), дваюрадную сястру Звеніславу (Еўпраксію), сваіх пляменніц Кірыяну (Агафію) і Вольгу (Яўфімію) і з іх дапамогаю заснавала своеасаблівую жаночую школу, дзе вучаніцы набывалі навыкі чытання, вучыліся перапісваць кнігі, далучаліся да высокай маральнай культуры. Паводле «Жыція...», Ефрасіння Полацкая была таленавітай настаўніцай не толькі дзяцей, але і дарослых, бо «Тако бо бяше дар сей дан блаженной Евфросиніи от Бога: аще кто ее воспрошает о коей вещи, она ему разрешаше, чему быти...» (тамсама. С. 15). Пад канец свайго жыцця разам з дзядзькам Давыдам і іншымі пілігрымамі зрабіла падарожжа ў Іерусалім. Там захварэла і 23 мая 1173 г. памерла, пахавана ў манастыры Святога Феадосія. У 1187 г. яе мошчы былі перавезены ў Кіева-Пячорскую лаўру, а ў 1910 г.— у Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр.

Пра мову і стылістыку асветніцы можна меркаваць па надпісе на крыжы, зробленым паводле яе заказу для Спаса-Ефрасіннеўскай царквы выдатным майстрам Лазарам Богшам у 1161 г. («честьное древо бесценно есть, а кованье его. злато и серебро, и каменье и женчюгъ...»). На думку мовазнаўцаў, гэты фрагмент па стылістыцы належыць да «бытавой пісьменнасці» (Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967. С. 30). Даследчыкі яшчэ не звярнулі ўвагі на палітычны і гісторыка-культурны сэнс напісанага на Богшавым крыжы зароку: «Да не изнесеться из манастыря никогда же яко ни продати, ни отдати. аще се кто преслоутаеть. изнесеть и от манастыря. да не боуди емоу помощьникъ. чьстьныи крьстъ ни въ сь векъ. ни въ боудоушии. и да боудеть проклятъ святою животворящею троицею. и святымі отци [...] и боуди ему часть съ Июдою. иже преда Христа. кто же дрьзнеть сътворити сее... властелинъ. или князь. или пискупъ. или игоуменья. или инъ который обо члвкъ а боуди емоу клятва си». Зусім верагодна, што тэкст гэтай «клятвы» прадыктавала майстру Ефрасіння Полацкая, каб навекі захаваць у сваім горадзе гэты сімвал палітычнай самастойнасці і культурнага росквіту Полацкага княства — старажытнага праваобраза Беларусі. Да 1941 г. крыж зберагаўся ў Магілёўскім краязнаўчым музеі, знік у час вайны.

*Літ.:* Мельнікаў А. Найпадобная Еўфрасіння, ігумення Полацкая // Беларусь. 1992. № 2; Арлоў У. Еўфрасіння Полацкая. Мн., 1992. *У. М. Конан.*

**Ё** *— сёмая літара беларускага алфавіта. Утворана шляхам спалучэння літары Е з дыякрытычнымі знакамі. Запазычана з рускай графікі, дзе ўпершыню з'явілася ў 1797 годзе (уведзена М. М. Карамзіным). У старабеларускім пісьменстве адсутнічала: гук* о *пасля мяккіх зычных абазначаўся літарай* е (ледъ — *«л'од»*, медъ — *«м'од»*), *спалучэннем* іо (зіоло — *«з'оло»*, ліосъ — *«л'ос»*) *і нават літарай* о (весолый — *«в'ес'олый»*, слозы — *«с'л'озы»*). *У сучаснай беларускай мове абазначае лабіялізаваны галосны гук* о *задняга рада сярэдняга пад'ёму і мяккасць папярэдняга зычнага* (лён — *«л'он»*), *а ў пачатку слоў, пасля галосных* у, ь *і апострафа — спалучэнне гукаў* йо (ёд — *«йод»*, раён — *«район»*, медальён — *«м'едал'йон»*, звяр'ё — *«з'в'арйо»*). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «сёмы» (група «Ё»), пры лічбавай нумарацыі дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 12ё).*

*А. М. Булыка.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны
16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Бедны той, хто апрача грошы, апрача багацця,*
*каторае пры першым няшчасці счэзне дазвання*
*не мае скарбаў вечных — скарбаў душы.*
*Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць*
*ад нас не здалее, гэта любоў да бацькаўшчыны,*
*да свайго народа, да роднай мовы ...*

Цётка



**Ж** — *восьмая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Ж («жывеце»), якая была ўтворана шляхам далучэння цэнтральнай вертыкальнай рыскі да літары* Х *(«хер») або падваення літары* З *(«зямля»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычны гук ж, пры аглушэнні* ш (жыто, положыти, ножъ — *«нош»*, стужка — *«стушка»*). *Наяўнасць у старабеларускім пісьменстве паралельных варыянтаў тыпу* жито, положити *тлумачыцца традыцыйным характарам тагачаснага пісьма і не сведчыць аб мяккасці* ж. *Уваходзіла ў склад дыграфа* жч (выежчати, дожчъ). *Лічбавага значэння не мела. У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрознівацца як вялікая і малая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумны звонкі зацвярдзелы шчылінны пярэднеязычны зычны гук* ж (журавель — *«журав'эл'»*, сцяжына — *«с'ц'ажына»*), *а перад глухімі зычнымі і на канцы слоў парны да яго па звонкасці і глухасці гук* ш (лыжка — *«лышка»*, вуж — *«вуш»*). *Уваходзіць у склад дыграфа* дж (агароджа, ураджай). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ЖКК, ЖЭС). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «восьмы» (група «Ж»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (паліца № 4ж).*

*А. М. Булыка.*

## ЖАРГОН

Слова жаргон (франц. jargon) першапачаткова абазначала ў французскай мове сапсаваную мову. Зараз пад жаргонам разумеюць любое маўленне, якое адрозніваецца ад літаратурнага і характарызуе пэўныя сацыяльныя слаі, напрыклад людзей, аб'яднаных прафесіяй, родам заняткаў, захапленнямі і г. д. Існуюць, напрыклад, жаргоны ваенных і маракоў, акцёраў і фізікаў, паляўнічых і карцёжнікаў, сталяроў і металургаў, моладзі і рок-музыкантаў. Яны неаднолькавыя па распаўсюджанні, па той ролі, якую адыгрываюць у дадзеным асяроддзі, па паходжанні і асаблівасцях развіцця.

На адным полюсе знаходзяцца жаргоны, якія набліжаюцца да прастамоўя: гэта аб'яднанні слоў, што выкарыстоўваюцца найчасцей у неафіцыйных сітуацыях, сярод сяброў: словы, якія маюць значную долю жарту, эмоцый і экспрэсіі. Такія жаргоны выкарыстоўваюцца найперш для ажыўлення маўлення, стварэння асобага моўнага каларыту. Яркім прыкладам такіх жаргонаў служыць жаргон моладзі (маладзёжны сленг). Яго носьбітаў аб'ядноўвае толькі ўзрост, і часта жаргонныя слоўцы ў мове моладзі як бы гавораць: я — «свой», г. зн. жаргон, разам з прычоскай, стылем адзення і г. д., служыць знешнім атрыбутам маладога чалавека і робіць яго падобным на тысячы яго равеснікаў. Крыху іншы характар маюць прафесійныя жаргоны, г. зн. жаргоны людзей адной прафесіі, спецыяльнасці. Яны адрозніваюцца ад маладзёжнага жаргону найперш складам лексікі: большая частка іх — словы, якія абазначаюць розныя прадметы і з'явы пэўнай прафесійнай дзейнасці. Там, дзе звычайны чалавек скажа *хвост*, паляўнічы назаве больш за дзесяць слоў, якія абазначаюць розныя віды хвастоў жывёл; у сталяра кожны інструмент мае сваю назву, якая адрозніваецца ад літаратурнай; паліграфісты даюць сваё найменне розным відам памылак, браку друкаванай прадукцыі. Вельмі часта такія прафесійныя словы маюць сінонімы ў літаратурнай мове. Прафесійныя жаргоны адрозніваюцца ад прафесійных тэрміналагічных сістэм сваімі аднасінамі да літаратурнай мовы. Першыя знаходзяцца па-за яе межамі. Аднак па выкарыстанні прафесійныя жаргоны блізкія да маладзёжных; яны ўжываюцца ў неафіцыйных абставінах, найчасцей сярод прадстаўнікоў аднай прафесіі. Як і маладзёжныя, прафесійныя жаргоны вельмі экспрэсіўныя.

Найбольш старажытныя паводле паходжання жаргоны трэцяга тыпу: мовы вандроўных рамеснікаў, гандляроў, жабракоў дарэвалюцыйнай Расіі, Украіны, Беларусі, а таксама жаргон злачынцаў. Да гэтых жаргонаў у большай ступені падыходзіць назва **у м о ў н ы я** (або тайныя) **м о в ы**. Гандляры і рамеснікі, ідучы на заробкі далёка ад родных мясцін, дамаўляліся пры неабходнасці гаварыць так, каб сярод чужых ніхто не мог іх зразумець. Ствараліся не проста асобныя словы, а цэлыя лексіка-семантычныя сістэмы — мовы, на якіх складалі песні, частушкі, прымаўкі, вершы. Лексіка ўмоўных моў багатая і разнастайная. Тут ёсць усе паўназначныя часціны мовы (назоўнікі, прыметнікі, лічэбнікі, дзеясловы, прыслоўі). Службовыя ж часціны мовы браліся звычайна з агульнанароднай мовы. Словы ўмоўных моў абазначалі і з'явы прыроды, і фізічны і псіхічны стан чалавека, і разнастайныя прадметы пэўнай спецыяльнасці і сялянскага побыту, жывёл і расліны, уласцівасці і прыметы прадметаў, найбольш распаўсюджаныя дзеянні.

Да ліку беларускіх умоўных моў адносяцца катру́шніцкі ле́мезень (мова шапавалаў с. Дрыбіна Магілёўскай губерні); па́рушніцкі ле́мез (мова

шклоўскіх краўцоў і шапавалаў); адвéрніцкая гаворка (мова рамеснікаў Крычава Магілёўскай губерні); мова шапавалаў Навазыбкава і краўцоў Жыздры (зараз у Бранскай і Калужскай абласцях, але іх трэба аднесці да беларускіх); любéцкі лéмент (мова жабракоў Мсціслаўскага, Чавускага, Клімавіцкага, Чэрыкаўскага паветаў Магілёўскай губерні, а таксама Чарнігаўскага, Мглінскага і Бранскага паветаў); мова семежаўскіх жабракоў з в. Семежава Слуцкага павета Мінскай губерні; выцірняцкі гаўры́днік — мова лáбараў — прафесійных збіральнікаў ахвяраванняў *на патрэбы царквы, а першапачаткова* і касцёлаў (м. Іванава Кобрынскага павета Гродзенскай губерні).

Храналагічна першым з'яўляецца ўпамінанне аб адверніцкай гаворцы крычаўскіх мяшчан — краўцоў і шаўцоў у «Апісанні Крычаўскага графства ці былога староства 1786 года» А. Меера (апублікавана Е. Р. Раманавым у 1901 г.). Меер прыводзіць 6 выразаў, 35 назоўнікаў і 5 дзеясловаў гэтай гаворкі. У 1853 г. С. Мікуцкі апублікаваў кароткі слоўнічак любецкай мовы (мовы сляпых жабракоў, старцаў). Слоўнік уключаў 65 слоў, сярод якіх былі такія, як *хира* 'рука', *троить* 'есці', *сапи* 'маўчы', *карыга* 'дзеўка', *галость* 'соль'.

Умоўная мова лабараў з мястэчка Янава (Іванава) была апісана Ф. Стаўровічам у 1869 г. Калісьці янаўцы належалі польскім каралям і карысталіся пэўнымі прывілеямі. Пасля мястэчка пераходзіла ад аднаго пана да другога, але прывілеі (напрыклад, вызваленне ад паншчыны) заставаліся. Менавіта гэта, а таксама недастатковая колькасць зямлі і прывялі сялян Янава да лабарства. Амаль увесь год лабары вандравалі па краіне з царкоўнымі кнігамі, у якія яны запісвалі ахвяраваныя сумы. Аднак акрамя гэтага яны займаліся яшчэ жабрацтвам і проста махлярствам.

Лабары мелі і сваю асобую мову, якой карысталіся ў прысутнасці чужых людзей. Стаўровіч прыводзіць некалькі слоў з іх мовы: *хлюса* 'царква', *Охвес* 'бог', *Корх* 'святар', *ставер* 'крыж', *хирганица* 'чалавек', *ребсанька* 'кніга для запісу ахвяраванняў', *либерская гавридня* 'лабарская размова', *хрущ* 'рубель', *хлюсный ставер* 'царкоўны крыж'. Некаторыя з гэтых слоў запазычаны з грэчаскай мовы, напрыклад *тэос* — бог, *стаўрос* — крыж, *экклезіа* — царква. Аднак на пытанне даследчыка, адкуль вы навучыліся гэтай мове, «адзін са старых лабараў адказаў, што яны навучыліся яе ад рускіх, г. зн. напэўна ад афеняў».

Любецкі лемент быў апісаны Е. Р. Раманавым. З розных тыпаў жабракоў (ці, як яны сябе называлі, старцоў, калек, сляпых) Раманаў лепш за ўсё вывучыў найбольш распаўсюджаны тып: жабракоў-песняроў. Гэта ў асноўным сляпыя жабракі, якія хадзілі з павадырамі — хлопчыкамі 8—15 гадоў. Просячы міласціну, жабракі пелі псалмы, якія яны вывучвалі за невялікую плату звычайна ў «майстра» — таксама сляпога жабрака.

З даўніх часоў у старцаў існавала асобае самакіраванне, якое вырашала многія пытанні, у тым ліку і пытанні «абароны» старцаў ад «знешняга свету». Гэтымі ж прычынамі (схаваць свае намеры ад чужых) тлумачыцца і наяўнасць у іх любецкага лемента.

Е. Р. Раманаў запісаў каля 1000 слоў любецкага лемента ў Мсціслаўскім, Клімавіцкім, Чэрыкаўскім і Чавускім паветах Магілёўскай губерні. Сярод іх, напрыклад, такія, як *дылька* 'вада', *сиянка* 'сонца', *кудень* 'дзень', *лох* 'мужык, мужчына', *шусцянин* 'мешчанін', *тройман* 'твар', *лыкша* 'каша', *настыжник* 'спадніца', *клюжать* 'ляжаць', *явлыда* 'карова', *лапуха* 'капуста', *учинятца* 'маліцца', *клёвый* 'добры', і г. д.

Нарэшце, у апублікаванай у 1912 г. ў «Беларускім зборніку» (9 выпуск) «Спробе слоўніка ўмоўных моў Беларусі» Е. Р. Раманаў змясціў звод усіх вывучаных да таго часу беларускіх умоўных моў. Раманаў спрабаваў высветліць паходжанне гэтых моў разам з гісторыяй узнікнення саміх моў. Так, ён лічыў, што пасля падзення Візантыі на Русь хлынулі натоўпы грэчаскіх і афонскіх манахаў, якія збіралі ахвяраванні на храмы і манастыры; пасля гэтага і з'явіліся на нашай зямлі «кубракі» і «лабары» з такімі ж мэтамі, мова якіх была часткова падобнай на афонскую («афінскую»). Усе гэтыя лемезні, лементы, гаўрыднікі мелі, на думку Раманава, агульнае паходжанне. Ён прыводзіць цэлыя выразы на ўмоўных мовах, напрыклад: *Гурь манькý хавбóв* 'Дай мне грошай' (Дрыбін); *Похлúм кéро кéрить* 'Пайшлі піва піць' (тамсама); *Клёво хвéсить* 'Добра спявае' (Шклоў). Вучоны адзначае і перамены, якія адбываліся ва ўжыванні ўмоўных моў: напрыклад, было заўважана, што жабрацкая моладзь («любкі» Магілёўскай губерні) з усё меншай ахвотай вывучала любецкі лемент, аддаючы перавагу адверніцкай гаворцы, г. зн. звычайнай беларускай мове, але з дабаўленнем або ўстаўкай у словы пэўных гукавых элементаў *(хер, ку, шу, ша, це, уймуд* і г. д.). Такая гаворка, напрыклад, поўнасцю выцесніла «лемент» з мовы жабракоў Слуцкага павета Мінскай губерні. Е. Р. Раманаў па ›аўнаў беларускія ўмоўныя мовы з рускімі і польскімі. У наш час спробу параўнаць ўсходнеславянскія ўмоўныя мовы зрабіў В. Д. Бандалетаў.

Лексіка беларускіх умоўных моў (іх таксама называюць арго) часткова запазычана з грэчаскай, нямецкай і іншых моў, часткова створана на базе беларускай. Напрыклад, былі запазычаны такія словы: *мелюс* 'мёд', *микрый* 'малы', *петрус* 'камень' (з грэчаскай), *штэк* 'палка', *цигаль* 'каза', *шнейдэр* 'кравец' (з нямецкай ці новаяўрэйскай — ідыш), *свяно* 'свята', *девент* 'дзевяць' (з польскай), *басать* 'рэзаць' (з татарскай). Шмат слоў у гэтых арго і з адверніцкай гаворкі, г. зн. мовы, словы якой уяўляюць сабой скажоныя (перастаноўкай складоў ці ўстаўкай іншых гукаў) словы беларускай мовы: *кубáкуцька* 'бацька', *шухáшута* 'хата', *кувяснá* 'вясна'. Нарэшце, у складзе гэтых гаворак былі словы, створаныя на базе беларускай мовы з дапамогай розных словаўтваральных сродкаў: *хадырки* 'ногі', *кисляты* 'яблыкі', *рыкуха* 'карова', *кругляки* 'яйкі'.

Цікавым з'яўляецца і размеркаванне лексікі ўмоўных моў па тэматычных групах. Так, у «Беларускім зборніку» Е. Р. Раманаў выдзяляе наступныя прадметна-паняційныя групы слоў.

1. З'явы і прадметы прыроды: *сугá, дéлька* 'вада', *сьвя́нка, дэ́ус* 'сонца', *цір* 'пясок', *кýгод* 'год', *дэ́ушница* 'тыдзень'.

2. Прадметы духоўныя: *свя́но* 'свята', *хлю́са, дэ́ушница* 'царква', *калагáн* 'звон', *псáлка* 'духоўны верш, псалм'.

3. Чалавек: *цыри́зник* 'цар', *бакштэ́йка, ёрица* 'маці', *югáн* 'цыган', *апýльщик* 'купец', *главдá* 'галава', *краси́нка* 'кроў'.

4. Ежа: *пирьхá* 'мука', *артимóс* 'блін', *буклéй* 'квас'.

5. Адзенне: *насты́жница* 'спадніца', *пóдрубсень* 'пояс', *хвили́стка* 'хустка', *верзюки́* 'лапці'.

6. Жыллё, рэчы, прылады: *свúгород, шýсто* 'горад', *хаз* 'хата', *дергýтница* 'млын', *хазóмка* 'пакой', *бодáбка* 'іголка'.

7. Жывёлы: *вóлот* 'конь', *лынь* 'воўк', *бурчáвка* 'пчала'.

8. Расліны: *зéдка* 'жыта', *сувя́зка* 'грэчка', *товпы́жница, солоди́мная* 'морква' (літаральна 'рэдзька салодкая'), *вихрó* 'сена'.

9. Дзеянні: *éрчать* 'ехаць', *лыхтитца* 'смяяцца', *сивóрить* 'мёрзнуць', *пропуля́ть* 'прадаваць', *сéворить* 'сеяць'.

10. Уласцівасці і якасці: *шáвлый* 'вялікі', *лáсый, тонки́мный* 'тонкі', *дýлясный* 'гарачы', *няўлéпый* 'сляпы'.

11. Лікі і меры: *ёный* 'адзін', *стрóмах* 'тры', *кýсотня* 'сто', *бáкрышний* 'другі', *лухтови́на* 'палавіна', *вихт* 'фунт'.

12. Найбольш ужывальныя займеннікі: *мань* 'я', *бальвá* 'ты', *собéский* 'свой', *тóнтый* 'той', *кóро* 'што', *сáбасный* 'сам'.

13. Асноўныя прыслоўі: *пóсо* 'многа', *мугрóм* 'хутка', *шимчéй* 'лепш', *нисвя́зу* 'ніколі', *шот* 'вот', *кýсеньня* 'сёння'.

14. Фразы на ўмоўнай мове: *Кóрнем Ахвéсу чáнитца* 'Будзем Богу маліцца'.

Зараз умоўныя мовы практычна выйшлі з ужытку: адышлі ў мінулае сацыяльныя ўмовы, што спарадзілі іх. Асобныя слоўцы са старых умоўных моў захаваліся яшчэ ў дыялектах або перайшлі ў жаргоны новага тыпу, напрыклад у маладзёжны жаргон: *клёва* 'добра', *хаз (хаза)* 'дом' ('кватэра').

Асноўныя элементы жаргонаў (жарганізмы) часам выкарыстоўваюцца ў мастацкіх творах для характарыстыкі мовы персанажаў. Аднак іх выкарыстанне павінна быць вельмі мэтазгодным, апраўданым, таму што злоўжыванне жаргоннай лексікай засмечвае мову.

*Літ.:* Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 9. Опыт словаря условных языков Белоруссии: С параллелями великорусскими, малорусскими и польскими. Вильна, 1912; Александровіч С. Кравецкі жаргон // Беларусь. 1946. № 5—6; Бондалетов В. Д. Белорусские арго в их отношении к арго русским и украинским // Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур. Мн., 1973.

*А. Г. Лукашанец.*

## ЖУРАЎСКІ АРКАДЗЬ ІОСІФАВІЧ



Беларускі мовазнавец А. І. Жураўскі нарадзіўся 5 жніўня 1924 г. ў в. Янава Талачынскага раёна ў сялянскай сям'і. У 1950 г. скончыў БДУ. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1980). Доктар філалагічных навук (1968), прафесар (1970). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Пасля абароны дысертацыі на тэму «Гісторыя форм загаднага ладу ў беларускай мове» з 1953 г. працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі. У 1959—60 гг. чытаў курс лекцый па беларускай мове ў Варшаўскім універсітэце. З 1960 загадчык сектара гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі, адначасова з 1974 г. быў намеснікам дырэктара, у 1983—89 гг.— дырэктарам інстытута, з 1992 г.— саветнік пры дырэкцыі гэтага інстытута. З'яўляўся старшынёй Беларускага камітэта славістаў, членам Міжнароднай камісіі па славянскіх літаратурных мовах, членам каардынацыйнага савета АН Беларусі, рэдактарам штогодніка «Беларуская лінгвістыка».




А. І. Жураўскі. «Мова нашых продкаў» (вокладка). 1983.

У больш як 200 працах па гісторыі беларускай мовы А. І. Жураўскі даследаваў лексічныя і граматычныя асаблівасці беларускіх пісьмовых помнікаў, найперш выданняў Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, фарміраванне беларускай літаратурнай мовы, станаўленне яе жанрава-стылявых разнавіднасцей, яе суадносіны ў розныя гістарычныя эпохі з жывой мовай народа і ўзаемадзеянне з мовамі суседніх народаў і з царкоўнаславянскай мовай, лексічныя запазычанні з іх. Ён першы даказаў існаванне ў старабеларускі перыяд беларускага варыянта царкоўнаславянскай мовы. Усе гэтыя і іншыя праблемы найбольш сістэматычна выкладзены ў манаграфіі «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (т. 1, 1967). Гісторыі беларускай мовы прысвечаны і яго навукова-папулярная кніжка «Мова нашых продкаў» (1983), а таксама даклады на VII Міжнародным з'ездзе славістаў (1973) «Характар знешніх узаемаадносін беларускай літаратурнай мовы з іншымі славянскімі мовамі ў пачатковы перыяд яе фарміравання» (з І. І. Крамко) і на X Міжнародным з'ездзе славістаў (1988) «Беларуска-іншаславянскі сінкрэтызм мовы выданняў Скарыны» (з У. В. Анічэнкам). А. І. Жураўскі многа ўвагі аддаваў стварэнню гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Ён вызначыў храналагічныя рамкі і тэкставыя крыніцы для гэтай лексікаграфічнай працы, склаў інструкцыі па выпісцы фактычнага матэрыялу з пісьмовых помнікаў і яго лексікаграфічнай апрацоўцы, пад яго кіраўніцтвам рыхтавалася картатэка і вядзецца ўкладанне слоўніка. Ужо выйшла 12 выпускаў на літары А — З (1982—93). А. І. Жураўскі з'яўляецца сааўтарам такіх калектыўных акадэмічных прац і вучэбных дапаможнікаў для вышэйшых навучальных устаноў, як «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» (1957), «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы» (ч. 1—2, 1961—62), «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (1970), «Гістарычная марфалогія беларускай мовы» (1979), «Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст.» (1988), «Мова выданняў Францыска Скарыны» (1990).

А. І. Жураўскі ўдзельнічаў у стварэнні вучэбнага дапаможніка для вышэйшых навучальных устаноў «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія» (1957), хрэстаматыі «Пісьменнік і мова» (1962), «Руска-беларускага слоўніка грамадска-палітычнай тэрміналогіі» (1970), брашуры «Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР» (1979, разам з А. А. Крывіцкім), апублікаваў шэраг артыкулаў аб жыцці і навуковай дзейнасці вядомых беларускіх мовазнаўцаў.

*Тв.:* Гісторыя форм загаднага ладу ў беларускай мове // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 4; Да пытання аб ролі царкоўнаславянскай мовы ў развіцці беларускай літаратурнай мовы XVI ст. // Матэрыялы да IV Міжнароднага з'езда славістаў. Мн., 1958; Некоторые особенности взаимодействия древнеславянского и белорусского литературных языков // Советское славяноведение. 1965. № 2; Некаторыя пытанні беларуска-ўкраінскіх моўных сувязей старажытнага перыяду // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1966. № 2; Клопат аб родным слове // Тамсама. 1986. № 1; Про білоруський варіант церковнослов'янської мови // Мовознавство. 1967. № 4; Мова друкаваных выданняў Ф. Скарыны // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; Лексика тюркского происхождения в старобелорусском языке // Тюркизмы в восточнославянских языках. М., 1974; Двухмоўе і шматмоўе ў гісторыі Беларусі // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; О канцелярском языке Великого княжества Литовского // Ежегодник истории Литвы. Год 1983. Вильнюс, 1984; Мовазнаўства. Мн., 1993; Праблемы норм беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1993.

*Літ.:* Булыка А. М. Аркадзь Іосіфавіч Жураўскі: Да 60-годдзя з дня нараджэння // Бел. лінгвістыка. Мн., 1984. Вып. 26; Крамко І. І. Дарогай карпатлівай працы: Да 60-годдзя з дня нараджэння члена-карэспандэнта АН БССР А. І. Жураўскага // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1984. № 4.

*І. К. Германовіч.*

## «ЖЫВОЕ СЛОВА»

Такую назву мае перадача Беларускага радыё для школьнікаў, якая выходзіць у эфір штомесяц з лістапада 1963 г. ў форме пасяджэнняў радыёклуба.

Галоўная задача клуба — выхаванне высокай культуры жывога гутарковага беларускага слова, пашырэнне абсягаў школьнага курса беларускай мовы, знаёмства з лінгвістыкай як навукай, якую, пры абавязковым вывучэнні граматыкі, у школе скарыстоўваюць толькі як базу. Ён задуманы і існуе, каб памагчы самаму шырокаму колу школьнікаў у навучанні гаварыць правільна, выразна, прыгожа, пашыраць свой актыўны слоўнік, у выхаванні высакароднага пачуцця — любіць і шанаваць родную мову. Выкананню гэтай задачы памагаюць лепшыя ўзоры вуснай творчасці беларускага народа, творы нацыянальнай літаратуры, якія гучаць на кожным пасяджэнні клуба ў выкананні як школьнікаў, так і майстроў мастацкага чытання. У перадачах радыёклуба робіцца спроба навукова-пазнавальнага асэнсавання мовы ў межах адпаведнага кожнаму ўзросту ўяўлення пра слова, якім чалавек карыстаецца штодзень.

Адзін з асноўных клопатаў радыёклуба — гэта этымалогія слова. Яна падаецца як адзін з найбольш цікавых і захапляльных раздзелаў навукі аб мове. Этымалогія беларускай мовы яшчэ мала даследавана, вось чаму тлумачэнне паходжання нават звыклых слоў часам вядзе слухачоў у глыбіні мовазнаўства, выводзіць іх у рэгіёны суседніх моў, вучыць шукаць вытокі слова ўзаемаўзгоднена з роднаснымі славянскімі мовамі, зазіраць у гістарычнае далёкае іншамоўе, прыхаванае тысячагадовымі напластаваннямі. Складаны шлях ад вытокаў да сённяшняга сэнсу і гучання слова прываблівае слухачоў, і яны дасылаюць у рэдакцыю лісты з рознымі пытаннямі, асабліва з галіны анамастыкі, тапанімікі, надаючы перадачы характар няспыннасці і разам з тым выключнасці, не зарэгуляваных толькі школьнай праграмай, а прадыктаваных індывідуальнымі патрабаваннямі членаў клуба. На пасяджэннях клуба таксама вядзецца размова пра такія характэрныя асаблівасці беларускай мовы, як націск у слове, поўнагалоссе і мілагучнасць. Папулярна, агульнадаступна для школьнікаў тлумачацца першаасновы беларускай лексікі як народнай, так і літаратурна ўнармаванай.

Радыёклуб «Жывое слова» выйшаў у эфір, калі стаў адчувальны ў рэспубліцы заняпад карыстання беларускай мовай, калі скарачаліся гадзіны на яе выкладанне ў школе. Клуб адразу стаў сярод юных слухачоў тым «выратавальным кругам», што заклікаў новыя пакаленні школьнікаў да роднай мовы як заўсёднага сродку зносін між беларусамі. Праз некаторы час у сваёй дзейнасці ён выходзіць за рамкі дыдактызму і шырока скарыстоўвае творчасць саміх удзельнікаў клуба, выносячы на суд школьнай грамады плён першых спробаў літаратурнай творчасці, наладжвае тэматычныя літаратурныя конкурсы, адказвае на шматлікія пытанні. Найбольш сталыя сувязі клуб наладжвае з тымі школамі, дзе ўзорна пастаўлена выкладанне беларускай мовы. Літаратурныя і моўныя школьныя гурткі «Сонейка», «Ручаінка», «Крынічка», «Роднае слова», «Родная мова», «Верасок» з розных куткоў рэспублікі знаходзяць выхад на пасяджэнні клуба «Жывое слова», які арыентуе юнакоў і дзяўчат на філалагічную адукацыю, на журналісцкую дзейнасць, на пісьменніцкую працу, а ўвогуле на пашану да роднай мовы.

Складаецца радыёклуб з трох раздзелаў: «Пытайцеся — адказваем», «Творчасць нашых сяброў», які паказвае выяўленчыя магчымасці слова, калі яно выступае як сродак мастацкай творчасці, як маляўнічы спосаб выказвацца, і «Хвіліна забавы» — раздзел, якім завяршаецца кожнае пасяджэнне клуба. Апошні раздзел з'яўляецца жывым матэрыялам для раскрыцця ўнутраных магчымасцей слова. Загадкі, прыказкі, гульні са словам, шарады, метаграмы і інш. скіраваны на развіццё ў школьнікаў чысціні вымаўлення, кемлівасці, вобразнага ўспрымання навакольнага жыцця. Смяшынкі, жарты і іншыя выяўленчыя формы ствараюць належны эмацыянальны фон для ўспрымання перадачы. Літаратурныя віктарыны, «хатнія заданні» актывізуюць удзел школьнікаў рэспублікі, і нават за яе межамі, у працы радыёклуба «Жывое слова». З кожнай перадачай як бы пішацца даведачная кніга пра невычэрпнасць моўных скарбаў нашага народа, пра рытмічную разнастайнасць яго вуснай гутарковай мовы, пра разуменне і ашчаднае абыходжанне са словам, пра няспынны рост агульнай культуры беларускай мовы.

*У. М. Юрэвіч.*

## «ЖЫВОЕ СЛОВА»

Народны тэатр чытальнікаў «Жывое слова» Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага заснаваны ў 1966 г. на базе студэнцкага гуртка аматараў мастацкага чытання. Арганізатарам і нязменным кіраўніком калектыву на працягу 25 гадоў быў кандыдат педагагічных навук А. А. Каляда, з 1991 г. мастацкі кіраўнік тэатра Ю. В. Чарэнка.

Задача тэатра — прывіваць любоў да роднага слова, жывой народнай гаворкі, вучыць адчуваць мелодыку, хараство і прыгажосць беларускай мовы, прапагандаваць лепшыя творы беларускай літаратуры, а таксама рускай і зарубежнай.

Тэатральны калектыў падрыхтаваў і паказаў гледачам ужо больш за 30 праграм і літаратурна-музычных кампазіцый, сярод якіх «Вянок» (паводле твораў М. Багдановіча), «Калі цвіце папараць» (да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа), «Званы Хатыні», «Любоў зямная» (па творах Р. Гамзатава, П. Броўкі, Я. Брыля, А. Вярцінскага), «У сям'і адзінай», «Людзьмі звацца», «Помнім боль твой і страты твае, Беларусь», «Выткался на озере алый цвет зари» (паводле твораў С. Ясеніна) і інш.

Апошнія гады тэатр перайшоў да пастаноўкі цэласных спектакляў, такіх, як «Маці ўрагану» (паводле аднайменнай гістарычнай драмы У. Караткевіча), «Ефрасіння Полацкая» (паводле аповесці В. Іпатавай «Прадыслава»), «Кастусь Каліноўскі» (паводле паэмы А. Куляшова «Хамуціус», п'есы «Кастусь Каліноўскі» і рамана «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіча, некаторых балад Я. Сіпакова, аповесці А. Якімовіча «Кастусь Каліноўскі»), «Песня сярод чумы» (паводле паэмы «Песня пра зубра» М. Гусоўскага і гістарычных аповесцей У. Арлова), «Адчайная восень» (паводле аднайменнай аповесці Г. Шчарбаковай), «Леаніды вернуцца» [па матывах рамана У. Караткевіча «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца на Зямлю»)] і інш.

Калектыў тэатра чытальнікаў часты госць у гарадах і вёсках Беларусі, у школах, бібліятэках, на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах. Папулярызацыя беларускай мовы і літаратуры вядзецца і за межамі рэспублікі. Былі гастрольныя паездкі ў гарады Валгаград, Варкуту, Петразаводск, Палтаву, Львоў, Вільнюс, Кіеў і інш. З 1991 г. разам з тэатрам «Балаган» з Беластока (кіраўнік Ян Мордань) тэатр ладзіць штогадовыя вандроўкі па беларускіх вёсках Беласточчыны, у якіх дае свае прадстаўленні.

Акцёры тэатра — будучыя настаўнікі — паглыбляюць вывучэнне літаратуры, вучацца пазнаваць таямніцы мастацкага слова, умець данесці яго да слухачоў, выклікаць у іх суперажыванне; тэатр дапамагае студэнтам у іх будучай прафесіі — ставіць голас, вучыць трымацца перад аўдыторыяй, валодаць жэстамі, мімікай; дапамагае авалодваць асновамі рэжысёрскага і сцэнарнага майстэрства, набываць навыкі пазакласнай работы з вучнямі.

Калектыў падтрымлівае трывалыя шэфскія сувязі з паасобнымі школьнымі драматычнымі гурткамі і студыямі, аказвае ім актыўную дапамогу. У Блонскай сярэдняй школе Пу-

хавіцкага раёна з 1977 г. працуе сельскі творчы спадарожнік тэатра — гурток тэатральнага мастацтва. З дапамогай студэнтаў школьнікі падрыхтавалі шэраг пастановак: урывак з драмы Янкі Купалы «Раскіданае гняздо», інсцэніроўку па аповесці Якуба Коласа «На прасторах жыцця», п'есу К. Крапівы «Валодзеў гальштук», інсцэніроўку апавядання І. Шамякіна «Хлеб» і інш. Гурток стаў лаўрэатам VI конкурсу народных калектываў прафсаюзаў у г. Мінску.

У 1977 г. за шматгадовую і плённую працу па прапагандзе мастацкага слова, актыўны ўдзел у культурным абслугоўванні працоўных калектыву тэатра «Жывое слова» нададзена ганаровае званне народнага. Тэатр адзначаны дыпломамі ўсесаюзных і рэспубліканскіх фестываляў, з'яўляецца лаўрэатам аглядаў і конкурсаў самадзейнай мастацкай творчасці. Больш за дзесяць удзельнікаў тэатра атрымалі ганаровае званне «Артыст народнага тэатра». *У. А. Дзіско.*

## ЖЫДОВІЧ МАРЫЯ АНДРЭЕЎНА



Беларускі мовазнавец М. А. Жыдовіч нарадзілася 19 кастрычніка 1906 г. ў в. Дукора Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага (1938). Працавала ў БДУ (1943—46, 1959—77), Інстытуце мовазнаўства АН БССР (1946—59). Доктар філалагічных навук (1958), прафесар (1959), заслужаны дзеяч навукі БССР (1971). Памерла 12 лістапада 1977 г.

Асноўныя кірункі навуковых зацікаўленняў М. А. Жыдовіч — гісторыя беларускай мовы і беларуская дыялекталогія. У кандыдацкай дысертацыі (1944) даследавала лексічныя, фанетычныя і марфалагічныя рысы помніка беларускага пісьменства 16 ст.— Супрасльскага летапісу. У манаграфіі «Назоўнік у беларускай мове. Ч. І. Адзіночны лік» (1969), напісанай на матэрыяле старажытных помнікаў беларускага пісьменства, дадзеных народных гаворак і сучаснай беларускай літаратурнай мовы, твораў беларускіх пісьменнікаў паказала станаўленне сістэмы скланення назоўнікаў, развіццё на працягу стагоддзяў іх граматычных катэгорый — роду, ліку, склонаў, катэгорыі адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці і інш. Аналіз матэрыялу М. А. Жыдовіч робіць у параўнальным плане, выкарыстоўваючы для супастаўленняў усходнеславянскія і іншыя славянскія мовы. Аўтар высветліла, як сістэма скланення назоўнікаў у беларускай мове ад пяці тыпаў у старажытныя часы трансфармавалася ў працэсе гістарычнага развіцця ў сучасную, якая складаецца з трох тыпаў, і змены адбыліся «не за кошт знікнення таго ці іншага тыпу скланення, а за кошт перагрупіроўкі, выкліканай аб'яднаннем назоўнікаў па граматычнаму роду» (с. 6—7).

Разам з М. В. Бірылам і Ю. Ф. Мацкевіч М. А. Жыдовіч з'яўляецца аўтарам «Праграмы па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1950). Яна — адзін з аўтараў і рэдактар «Матэрыялаў для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» (вып. 1—3, 1970—77), адзін з укладальнікаў «Слоўніка гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі» (т. 1, 1990).

М. А. Жыдовіч удзельнічала ў напісанні першых у беларускім мовазнаўстве калектыўных дапаможнікаў («Нарысы па гісторыі беларускай мовы». Мн., 1957) і падручнікаў («Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія». Мн., 1957) для студэнтаў філалагічных факультэтаў універсітэта і педагагічных інстытутаў. З Я. М. Рамановіч і А. К. Юрэвіч яна з'яўляецца ўкладальнікам «Бібліяграфічнага ўказальніка літаратуры па беларускаму мовазнаўству» (1960), з А. Д. Васілеўскай, Я. М. Рамановіч і А. К. Юрэвіч — бібліяграфічнага паказальніка «Беларускае мовазнаўства (1825—1965)» (1967).

*Тв.:* Мова Супрасльскага летапісу // Матэрыялы сесіі АН БССР 1945 г. па аддзяленню грамадскіх навук. Мн., 1948; Гаворка Рудзенскага раёна Мінскай вобласці // Матэрыялы першай дыялекталагічнай канферэнцыі БССР. Мн., 1950; Я. Ф. Карскі як гісторык беларускай мовы // Весці АН БССР. 1951. № 4; Да гісторыі беларускага пісьма і мовы: Арфаграфічныя і фанетычныя рысы Супрасльскага летапісу // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1954. Вып. 1; Да пытання аб устойлівасці скланення назоўнікаў у беларускай мове // Тамсама. Вып. 2; Да гісторыі скланення назоўнікаў у беларускай мове // Тамсама. 1957. Вып. 3.

*Літ.:* Шкраба Р. Спадарожнік кніжных паліц // Полымя. 1960. № 9; Вярхоў П. Летапіс беларускага мовазнаўства // Полымя. 1967. № 11; Зуёнак В. З крыніц жыватворных // Маладосць. 1971. № 8. *Н. С. Мажэйка, І. У. Саламевіч.*

## «ЖЫЦІЕ АЛЯКСЕЯ, ЧАЛАВЕКА БОЖАГА»

Працэс узаемадзеяння паміж пісьмовай мовай і жывымі беларускімі гаворкамі ў ранні перыяд гісторыі беларускай літаратурнай мовы не абмяжоўваўся насычэннем паасобных твораў рэлігійнага зместу беларускімі моўнымі асаблівасцямі. Ужо ў канцы 15 ст. пачалі з'яўляцца пераклады на беларускую мову рэлігійных твораў апакрыфічнага жанру, што было сведчаннем дастаткова высокага ўзроўню стылёва-функцыянальнага развіцця мовы і яе аўтарытэту ў грамадстве. У складанай моўнай сітуацыі на Беларусі адбыўся прагрэсіўны зрух, калі народная мова перастала быць другарадным, непрэстыжным сродкам камунікацыі, здольным абслугоўваць толькі свецкія, утылітарныя сферы жыцця грамадства, у якіх ужыванне свяшчэннай, паводле царкоўных статутаў, царкоўнаславянскай мовы не дапускалася. У выніку на Беларусь дзякуючы яе выгаднаму геаграфічнаму становішчу пачалі пранікаць перадавыя прагрэсіўныя дасягненні грамадскай думкі з краін цэнтральнай і заходняй Еўропы — перш за ўсё гуманізм і Рэфармацыя. Працэс гэты прадвызначыў канчатковы прарыў мовы карэннага насельніцтва беларускіх зямель у важнейшую сферу тагачаснага грамадскага жыцця — царкоўна-ідэалагічную, што было завершана ў наступным стагоддзі беларускімі дзеячамі сусветнага маштабу Францыскам Скарынам і яго паслядоўнікамі Сымонам Будным і Васілём Цяпінскім. Дзякуючы іх дзейнасці мова нашага народа набыла сусветную вядомасць. Істотным фактарам адзначаных прагрэсіўных перамен было існаванне на тэрыторыі Беларусі каталіцызму, не звязанага з царкоўнаславянскай моўнай традыцыяй.

«Жыціе Аляксея, чалавека божага» — помнік беларускай перакладной агіяграфічнай літаратуры канца 15 ст. Змешчана ў рукапісным зборніку разам з «Пакутамі Хрыстовымі» і «Аповесцю пра трох каралёў». Перакладзена з лацінскай мовы з выкарыстаннем чэшскіх крыніц. Рукапіс не датаваны, час напісання ўстаноўлены доследным шляхам.

«Жыціе...» апавядае пра Аляксея, які ў імя веры пакінуў сваіх багатых бацькоў і жонку і стаў хрысціянскім падзвіжнікам. Праз нейкі час ён вярнуўся ў бацькоўскі дом пад выглядам жабрака і жыў так на працягу 17 га-



**«Жыціе Аляксея, чалавека божага» (фрагмент). Пераклад 15 ст.**

доў. Толькі пасля яго смерці бацькі даведаліся, што гэта быў іх сын.

Пераклад зроблены ў каталіцкім асяроддзі, што выключыла ўплыў царкоўнаславянскай мовы. Помнік напісаны кірыліцай, дробным паўуставам. Алфавіт значна спрошчаны ў параўнанні з многімі іншымі помнікамі таго часу, з мінімальнай дублетнасцю літар: гук [е] перадаецца праз літары *е* і *ѣ*, якія часцей за ўсё ўжываюцца на сваіх месцах: *але, цесарем, рекли, невѣстка, тобѣ , мѣста, свѣта, лѣтъ*, але могуць часам змешвацца: *собе, делом, сѣдети, видело, вѣдати*, што сведчыць пра адсутнасць ужо ў той час розніцы ў іх гучанні; гук [і] перадаецца пераважна праз літару *и: молитвы, приводити, межи*, зрэдку праз *і: лаѡдаціе, закоуреніе, божій*; гук [о] перадаецца праз ѡ (звычайна ў пачатку слова) і *о*: *ѡлексѣй, ѡны, ѡбразъ, вдовамь, золотыми, тогды*; [у] перадаецца часцей дыграфам *оу*, які неўзабаве выйшаў з ужытку: *на наоукоу, телоу, моудрых, соуд, оумыслоу*, радзей праз ȣ: *оукрȣтне, ȣ себе, ȣзѧти;* гук [а] з папярэдняй мяккасцю звычнага перадаецца пераважна праз ѧ як на сваім месцы, пасля зычных, так і пасля галосных: *препоѧсовалисѧ, досѧгалъ, таѧ*, у адзінкавых выпадках — праз ѩ, *їа* (апошняй — пад польскім уплывам); *клѩкати, ѡтъиѧга*. Яркай беларускай рысай з'яўляецца размежаванне рознага гучання выбухнога і фрыкатыўнага *г* — першае з іх перадаецца праз *к* (перад звонкімі зычнымі), дыграф *кг*, другое — праз *г: перькгримом, никде, кде, акглаесъ*, але: *бог, тогды, слоуги*.

Для фанетыкі «Жыція...» характэрны адзінкавыя выпадкі адлюстравання якання пры перавазе *е* не пад націскам: *терема, перевезти, терпеливый, перстенець*, але: *колодѧзь, мѧшкати;* пасля шыпячых на месцы *е* звычайна выступае *о: свѧчо, лежачого, гаворѧчого, пришол;* прыстаўное *и* перад прыназоўнікам *с: ис церьми, ис чернилом, ис стола, исъ жемчоуга;* *в* перад зычнымі, якое, як правіла, пераходзіць у *у: оусе, оузѧвши, оу домоу, оу соуд*; губныя, шыпячыя, *ц* і *р* захоўваюць мяккасць, што, відаць, норме жывой мовы яшчэ не супярэчыла: *црквь, речь, молодець, на простири, ряд*.

Назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку адных і тых жа семантычных разрадаў побач з ранейшым канчаткам *-а/-я* часам маюць і новы канчатак *-у/-ю: исъ жемчоуга, без роузоума*, але: *с того гробоу, того же законоу, слоуги домоу, от ветроу*. Назоўнікі жаночага роду ў гэтым жа склоне ўжываюцца з канчаткам *-е*, які, відаць, з'яўляецца вынікам чэшскага ўплыву: *потешеніе дше моее, жалости дше моее*. Назоўнік асноў на зычныя *имя*, як і ў іншых старабеларускіх помніках, пры скланенні захоўвае суфікс *-мен-: его ж жона именемь акглаесъ*. Назоўнік гэтых жа асноў *тело* скланяецца без суфікса *-ес-: ку доткненью стго тела, телоу своемоу, на теле*, што стала нормай пазнейшых старабеларускіх помнікаў. Ужываюцца формы клічнага склону: *свѣчо очью моих, беда мне с* [ы] *ну мой*. У назоўным склоне множнага ліку гэтыя назоўнікі часам маюць канчатак *-ове/-еве*, які пашыраўся ў старабеларускай пісьменнасці пры падтрымцы польскай мовы: *волосы, ряды, столы*, але: *цесареве*. Традыцыйны канчатак *-а* маюць у назоўным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду: *на лица своя попадали, czересъ такіе лета*. У давальным склоне ўжываецца старажытны канчатак *-омь/-емь: цесарем и папе то сказал*. Для творнага склону характэрны: старажытны канчатак асноў на *о, аднолькавы з назоўным склонам: *тело свое посты соушил*, ранейшы канчатак асноў на *-и, -ми: ис моужми законными примивали покармъ*; канчатак назоўнікаў жаночага роду *-ами/-ями: сноурами золотыми препоѧсовалисѧ*. Сустракаюцца формы парнага ліку — родна-меснага склону: *свѣчо очью моих*; давальна-творнага: *плечима протѧгнетсе на него, кто дасть ѡчима моима колодѧзь слезъ*, часам ён замяняецца множным лікам, што з'яўляецца прыкметай уплыву жывой мовы: *роуками ѡбличье аньельское ѡбрачаеть целовати*.

Назіраецца змешванне кароткіх і поўных форм асабовых займеннікаў давальнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку: *дайте ми пристоупити*, але: *беда мне, кривдили тебе*. Займеннік 3-й асобы множнага ліку ўжываецца ў былой форме жаночага роду *оны*, якая найбольш адпавядае норме жывой беларускай мовы. Пытальны займеннік *кто* мае сваю традыцыйную форму: *кто дастъ ѡчима моима*.

Кароткія прыметнікі ўжываюцца звычайна ў прэдыкатыўнай функцыі: *грешны есмы, оуставичон был, тѧжокъ боудоу, таѧ речь оусим ѧвна была*. Сцягнутыя формы заходнеславянскага паходжання могуць ужывацца ў ролі азначэння: *в роубе шолкове облочилисѧ, оуложили тело на тажке мары*. Поўныя прыметнікі мужчынскага роду ў родным склоне маюць толькі ўсходнеславянскі канчатак *-ого/-его: прешлѧхетного, сырийского, небесного*. У месным склоне адзіночнага ліку гэтыя прыметнікі маюць ранейшы канчатак *-омь/-емь: оу присенкоу црковном, оу домоу цесарьскомъ, оу хваленію бжьемъ*. Прыметнікі жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку ўжываюцца толькі з традыцыйным двухскладовым канчаткам *-ое/-ее: светское хвалы*, у творным склоне — з двухскладовым канчаткам *-ою/-ею: с великою честию, з великою работою*. У назоўным і вінавальным склонах множнага ліку назіраецца змяшэнне ранейшых родавых канчаткаў: *седые волосы из головы свое рьвати, оуси, которые тоут есте*.

У помніку адсутнічаюць простыя формы прошлага часу дзеясловаў — аорыст і імперфект. Як і ў жывой мове таго часу, замест іх ужываецца перфект, прычым у 1-й асобе адзіночнага ліку захоўваецца звязка: *опоустела есми и стала есми оудовою, не познала есми*. Звычайнымі для перакладнога помніка з'яўляюцца формы дзеясловаў цяперашняга часу 1-й асобы множнага ліку з канчаткам *-мы: ряды королевства полнимы а держамы*. Формы ўмоўнага ладу ўтвараюцца яшчэ пры дапамозе формы 1-й асобы аорыста дзеяслова-звязкі *быти*, якая ў жывой мове ўжо была заменена формай 2-й і 3-й асоб: *на кого бых погледела, на кого бых очи подносила*.

Дзеепрыслоўі яшчэ захоўваюць прыкметы дзеепрыметнікаў незалежнага стану, ад якіх яны ўтварыліся — яны часам дапасоўваюцца да назоўнікаў у родзе: *оузявши, оустоупивши*, але: *оуслышавше*.

Побач з агульнаславянскай лексікай асноўнае месца займае беларуская: *велми, вонкахъ, година, докуль, здрапати, матка, познати, присенокъ, соромъ, ховати, хоусты*. Заканамерна, што пры перакладзе ў мову помніка трапілі паасобныя словы заходнеславянскага паходжання: *перъкгримъ* 'вандроўны манах', *покормь* 'ежа', *посполный* 'агульны', *прешляхетный* 'вельмі высакародны', *рачити* 'хацець', *укроутне* 'жорстка'. Пра тое, што пераклад рабіўся з выкарыстаннем крыніц на лацінскай мове, сведчыць канчатак *-усъ/-юсъ* у імёнах персанажаў: *архадиоусъ, бонифациоусъ, дагнориоусъ, еоуфимьяноусъ, имоценцеюсъ, олексеюсъ*, лацінская агаласоўка іншых уласных назваў: *лаодацие, цилицией, имоценцеюсъ, езоу криста*.

«Жыціе...» вядома ў чэшскім і польскім перакладах, у празаічным, вершаваным і драматургічным варыянтах. Упершыню апублікавана П. У. Уладзіміравым і У. М. Пературцам у 19 ст. Існуе некалькі спісаў гэтага твора. Адзін — у рукапісным зборніку, які зберагаецца ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу, другі спіс — у зборніку Сінадальнай бібліятэкі № 558. На Беларусі мову помніка вывучалі Я. Ф. Карскі, А. І. Жураўскі.

*Публ.:* Хрэстаматыя па старажытнабеларускай літаратуры. Мн., 1959; Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1. Мн., 1961.

*Літ.:* Адрианова В. П. Житие Алексея, человека божия, в древнерусской литературе и народной словесности. Пг., 1917; Карский Е. Ф. Западнорусский сборник XV в. Императорской Публичной библиотеки в С.-Петербурге // Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967. С. 97—112.

*У. М. Свяжынскі.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Родная мова, цудоўная мова!*
*Ты нашых думак уток і аснова!*
*Матчын дарунак ад самай калыскі,—*
*ты самацветаў яскравая нізка...*
*Кожнай драбнічкай ты варта пашаны,*
*кожнае слова вякамі створана.*
*І на вякі яно жыць застанецца*
*вечнае так, як народнае сэрца.*

Уладзімір Дубоўка



**З** — *дзевятая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай* ꙁ *(«зямля»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай* Z *(«дзэта»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* з, з', *пры аглушэнні* с, с' (загадка, зима, морозъ — *«морос»*, мазь — *«мас'»*). *Мела таксама лічбавае значэнне «сем», з дадатковымі значкамі ≠з — 7000, ③ — 70 000, (з) — 700 000, ꙁ — 7 000 000. У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваецца як малая і вялікая, але ўжыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. Паралельна з ёй, хоць і больш абмежавана, для абазначэння гукаў* з, з' *выкарыстоўвалася літара* S *(«зяло»), утвораная шляхам відазмянення грэка-візантыйскай устаўнай* S *(«дыгама»:* Sло, Sолото, Sять*). У сучаснай беларускай мове літара* З *абазначае шумныя звонкія шчылінныя пярэднеязычныя зычныя гукі* з, з' (замок, зямля — *«з'амл'а»*), *а перад глухімі зычнымі і на канцы слоў — парныя да іх па звонкасці і глухасці гукі* с, с' (нізка — *«н'іска»*, везці — *«в'эс'ц'і»*, завоз — *«завос»*, моладзь — *«молац'»*). *Уваходзіць у склад дыграфа* дз (дзень — *«дз'эн'»*, нэндза). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ЗАГС). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дзевяты» (група «З»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 6з).* *А. М. Булыка.*

## ЗАГАДКІ

Загадкі — гэта жанр народнай паэтычнай творчасці; іншасказальнае, вобразнае апісанне прадмета або з'явы, якія трэба адгадаць. Мова загадак — жывая мова народа, незвычайна паслухмяны яму цудоўны інструмент, якім ён выяўляе самыя разнастайныя зрухі сваёй паэтычнай душы. Яркая, сакавітая прадметная лексіка, такая ж неаглядна багатая, як неаглядны і сам прадметна-рэчыўны свет. Гнуткі, рухомы, незакасцянелы сінтаксіс, прыдатны для перадачы любога павароту думкі і самых нечаканых псіхалагічна-эмацыянальных імпульсаў. І пры гэтым — выключная чысціня нацыянальных форм, поўная суладнасць з духам і прыродным складам мовы, са строем душы і характару народа.

Уменне карыстацца сваім родным словам, здольнасць знаходзіць патрэбнае слова, у іншых выпадках — адзіна неабходнае слова, беларусы засведчылі ў загадках гэтак жа бліскуча, як і ў народных казках і паданнях, песнях і прыпеўках, прыказках і прымаўках.

З усіх жанраў беларускага фальклору загадкі найлепшым чынам ілюструюць і пацвярджаюць незвычайныя моватворчыя здольнасці народа. Гэта сапраўдная народная моўная лабараторыя, дзе ўзнікае і жыве, праходзячы праверку часам, слова, шукаюцца і правяраюцца яго семантычныя і фанетычныя магчымасці, ідзе абнаўленне яго сэнсу і форм. Здаецца, што ўсе магчымыя граматычныя формы назоўнікаў, дзеясловаў, прыслоўяў, лічэбнікаў і іншых часцін мовы выявіліся менавіта тут — у загадкавай паэзіі.

У слоўніку ёсць словы *сутуліцца, сутулаваты.* У загадцы пра човен: *Конь таго не павязе, што сутула панясе* ўжыты ўтвораны ад гэтага кораня назоўнік *сутула.* У загадцы: *Пад ліпкаю — сумяцель* (Праз сіта мука сеецца) ужыта слова *сумяцель* — сінонім да *мяцеліцы, завірухі.* Мы карыстаемся, пры выпадку, формай назоўніка з прыназоўнікам *па-за плотам,* а вось загадка пра кросны і чаўнок: *Пазаплоццю чырвоны парсючок бегае,* дзе ўжыта прыслоўе *пазаплоццю.* Гаворым жа мы *пазавуголлю, пазастоллю, пазакустоўю.*

Нарматыўны слоўнік для абазначэння пэўнай часткі цела ў жывел і птушак прапануе слова *агузак* (сінонімы: *зад, падхвосніца*) Народ жа з уласцівымі яму густам і тактоўнасцю знаходзіць (а дакладней — утварае) іншыя словы, куды больш далікатныя і таму зусім прыдатныя для паэтычнага кантэксту. Вось два варыянты загадкі пра курыцу (першы запісаны М. Федароўскім на захадзе Беларусі, а другі — М. Нікіфароўскім на ўсходзе): *Семсот сарочак, семсот спаднічак выйшла на двор, а тылак гол; Семсот намётак, семсот сарочак, а выйдзе на вуліцу — і адзадак голы.*

У загадках вельмі чуйныя адносіны да сэнсавага значэння слова і яго эмацыянальнай афарбоўкі, залежна ад канкрэтнай сітуацыі робіцца замена аднаго паэтычнага вобраза другім. Вось тры блізкія між сабой загадкі пра зубы і язык. Паглядзім, як мяняецца агульнае эмацыянальнае гучанне твора з заменай толькі аднаго слоўнага вобраза: *За сцяною касцяною салавейка шчабеча; За сцяной касцяной цецярук балбоча; За сцяною касцяною талалай брэша. Салавейка шчабеча* — сказана ласкава, пяшчотна, з разлікам на адпаведнае ўспрыманне (заўважце, нават не салавей, а салавейка); *цецярук балбоча* — гэта ўжо амаль груба, вобраз адразу набыў іранічнае гучанне; *талалай брэша* — гучыць яшчэ грубей, паколькі *брэша* звычайна адносіцца да сабакі.

У загадках шырока ўжываюцца народна-паэтычныя формы памяншальных і павелічальных назоўнікаў: *Поўна падпечайка белых курэй* (Зу-

бы); *Піргічыкі, піргічыкі сталі бабу слекатаць, стала баба рагатаць* (Парасяты ссуць свінню; піргічыкі — ад гукапераймальнага слова *пірґі*, якое перадае парасячы піск); *Мар'янка-курцянка пабегла ў лясочак, пазбірала трасчышча, нагрэла касцішча* (Сякера).

Гэтак жа хораша служаць загадцы вуснамоўныя гукапераймальныя дзеясловы-выклічнікі, якія абазначаюць аднаразовыя дзеянні, накшталт: *бабах! трах! плясь!* і інш. Вядома, што для пісьмовай літаратурнай мовы гэтыя формы дзеяслова нехарактэрныя. У загадках жа мы сустракаем іх даволі часта. Напрыклад: *Стаіць мядзведзь — на два бакі валюх-валюх* (Ступа і таўкачы); *Шах-мах, пад прыпечак спаці бах!* (Венік); *Трах-тарарах стаіць на гарах, вада бяжыць, барада трасецца* (Млын).

Часам слова падлягае змене зусім нечаканай і з пункту гледжання фармальнай граматыкі — неправамернай. Частая прычына гэтага — імкненне да складнасці і мілагучнасці: *Чатыры братцы-барадатцы: як у лес ідуць — дамоў глядзяць, як з лесу ідуць — у лес глядзяць* (Капыты ў каня); *Крутаста, вяртаста, а на ёй рубашак за ста* (Качан капусты); *Ляціць апастол з доўгім хвастом, за ім барабан з дашчок выбіван* (Запрэжаны конь, воз); *Беглі два воўкі, задраўшы галоўкі* (Сані).

Паколькі свет загадак — гэта найперш свет прадметаў, то зразумела, чаму з усіх часцін мовы на першым месцы ў загадкавай паэзіі стаіць назоўнік (назоўнік-метафара, назоўнік-метанімія і г. д.). Таму і сярод нелітаратурнай, спецыфічна загадкавай лексікі, г. зн. сярод тых слоўнаватвораў, слоў-вобразаў, якія выкліканы да жыцця своеасаблівай прыродай жанру, таксама пераважаюць назоўнікі, як правіла, утвораныя ад дзеясловаў, радзей — ад прыметнікаў і лічэбнікаў. Такіх незвычайных назоўнікаў у беларускіх загадках вялікае мноства. З іх найбольш выразнай, відочнай сэнсавай і генетычнай сувяззю з лексічнай першаасновай вызначаюцца назоўнікі-наватворы таўталагічнага паходжання: *Стаяць стаючкі, а на іх калючкі* (Хваёвыя дрэвы); *Доўгі даўгач упадзе ў балота — яго не знаць* (Дождж); *Чатыры чатырнічкі, на кожным чатырнічку па пяць пяцярнічкаў* (Рукі, ногі, пальцы).

Іншыя «зашыфраваныя» назоўнікі (падстаўныя назвы) утвораны па такім самым прынцыпе, як і таўталагічныя. Большасць з іх паходзіць ад пэўных дзеясловаў і іншых часцін мовы, а генетычную аснову некаторых вызначыць немагчыма, бо гэта цалкам плады фантазіі: *Стаіць разрубіха, у разрубісе — разваліха, у развалісе — хохыла, у хохыле — вохыла, у вохыле — боўтнік, у боўтніку — тыкала* (Хата, печ, агонь, гаршчок, страва, палонік); *На дварэ стаіць гара: чатыры тыкі, дзве матыкі, сёмы — замахайла* (Карова); *Выйшла пані семірута, убачыла мігірута, носам мігіросам, а мігіра — хап* (Кот, мыш).




**Том «Загадкі» з серыі «Беларуская народная творчасць». 1984.**

Некаторыя жывёлы, птушкі, рэчы маюць у загадках не па адной, а па некалькі падстаўных назваў. Так, кот (кошка), апрача *мігірута* і *мігіра*, мае такія імёны: *Мар'я Хапоўна, Мар'я вусата, мармот, кацапы, кацабурка, кароль, жмурка, зажмурыха, цяпа* і інш.; падстаўныя назвы мышы (апрача *семірута*): *чура, шчура, маршурачка, хахлушка, ператуптачка, пані, барыня* і інш.; імёны пеўня: *Судзінскі князь, пабудзітар, кукарэчык, какалеюшка, спявак, салдат, дзед, пан, князь, цар, прарок* і інш.; курыцы: *квактухара, кудахтарка, кахтарка, кохтарка, пава, нявеста, панна, прынцэса, царыца* і інш.; сабакі: *пасейнічак, ляпётнік, ляпа, ляпка, ляпета, лапэта, ляпёта, кляпа, клапот* і інш.; свінні: *панура, кугіка;* ваўка: *чыкі-брыкі, пацімкін, тота, цямнота, кракота, чачота, люта* і інш. Утварэнне падстаўной назвы, як бачым, ішло пераважна ад пэўнай прыкметы, адзнакі, уласцівасці: певень — *пабудзітар*, бо будзіць сваім спевам людзей раніцаю; воўк — *чыкі-брыкі*, бо калі ён чыкне зубамі жывёле па горле, то тая, вядома ж, брыкне і г. д. У іншых выпадках ніякай сувязі паміж выдуманай назвай і прадметам загадкі не ўлоўліваецца. Многія з іх, відаць, узніклі па чыста гукавой аналогіі: *цямнота-кракота, чачота, люта* і г. д. На гэта паказваюць і аднатыпныя загадкі пра пацеркі, у кожнай з якіх прадмет называецца розна, але ўсе назвы вельмі сугучныя: *Пад прыпечкам грыбяжы, хто ведае, не кажы.* У іншых варыянтах *грабяжы, драбяжы, драбязы, дрыбяжы, капяжы, карбяжы, рубяжы* і г. д.

Заслугоўваюць увагі падстаўныя назвы, утвораныя з прыцэлам на гумарыстычна-іранічнае гучанне. Такімі, напрыклад, з'яўляюцца назвы некаторых частак чалавечага цела: рот — *ядала, зіпала, зявалка,* нос — *сапун, сапай, шмаргала,* вочы — *мігалы, міргалы* і г. д. Прыкладам могуць быць і наступныя загадкі: *Шыя мая — вось такая, шундзер-мундзер — вось такі, завілючка — вось такая* (Апалонік); *Шахцель-пяхцель, чатыры рахтычкі* (Воз); *Купа на купе, трымбуль на пупе* (Жорны).

Псіхалагічнай асновай выдуманых, перакручаных, непазнавальна змененых слоў з'яўляецца імкненне чалавека да незвычайнага, яго жаданне выйсці за рамкі звыклага, будзённага, шэрага. Узнікшы ў загадках і дзеля загадак, многія з іх, вядома, не могуць выйсці са сваёй спецыфічнай сферы ўжытку і стаць агульнапрынятымі, літаратурнымі.

Своеасаблівы і сінтаксічны лад загадак. Яны вельмі сціслыя, лаканічныя па аб'ёме і простыя па будове. Гранічная канцэнтрацыя моўна-вобразных сродкаў і крайняя эканомія слоў — асноўны сінтаксічны прынцып і «залатое правіла» загадак. Падпарадкоўваючыся жывой размоўнай інтанацыі, загадка звычайна лёгка абыходзіцца без злучнікаў і ўвогуле без ускладненых сінтаксічных форм. Вось загадкі з трох-чатырох слоў: *Авечка ў карове* (Панчоха ў боце); *На вілачках страх* (Пуга); *Стаіць цыган у золаце* (Гаршчок, абгорнуты жарам); *Праз сцяну вала пякуць* (Вараць яйцо); *Вусы дайжэй за пана* (Ячмень); *Дзве паненкі сыр крояць* (Сані) і г. д.

Адна з характэрных рыс сінтаксісу загадак — частае ўжыванне сказаў, у якіх апушчаны той або іншы галоўны ці даданы член сказа, найчасцей — дзеяслоўная звязка *ёсць*: *На дворы — зялёна, а ў хаце — салёна* (Агурок); *Бацька — сцюдзёнка, матка — таплёнка, сынкі — скакункі, а дачушкі — лізушкі* (Ток, ёўня, цапы і мётлы; варта звярнуць увагу, якія дакладныя і трапныя метафарычныя характарыстыкі ў адным слове); *Ляжыць — з ягня, устане — вышэй каня* (Дуга); *Цераз пуза — тры папругі* (Бэлькі). Сціслыя, але вельмі смелыя і надта прыдатныя для паэзіі сінтаксічныя афарыстычныя канструкцыі.

Загадкі развіваюцца і ў наш час. Праўда, часцей у абмежаваным узроставым асяроддзі (як паэтычная творчасць дзяцей). Многа ўдалых загадак складаюць паэты-прафесіяналы. Для развіцця паэтычнага бачання і мыслення людзей, развіцця роднага слова загадкі захаваюць сваю вартасць назаўсёды.

*Літ.:* Гілевіч Н. С. Паэтыка беларускіх загадак. Мн., 1976. *Н. С. Гілевіч.*

## ЗАЙМЕННІК

Займеннік — гэта слова, якое ўказвае на асобу, прадмет ці прымету, але не называе іх, напрыклад: *я, ён, гэты, такі, столькі.* Займеннікі не маюць свайго ўласнага прадметналагічнага зместу, і гэтым яны супрацьпастаўляюцца ўсім астатнім паўназначным словам. На гэтай падставе ўсе паўназначныя словы можна дзяліць на словы знамянальныя (неўказальныя) і словы займеннікавыя (указальныя). Знамянальныя словы *(дрэва, вецер, блакітны, дзесяць, хутка)* абазначаюць пэўныя прадметы, з'явы, прыкметы, колькасці, акалічнасці і г. д., а займеннікавыя словы, словы-ўказанні, толькі ўказваюць на прадмет, з'яву, прыкмету, колькасць ці акалічнасць, гаворачы больш агульна, на прадмет ці прыкмету *(яно, ён, такі, столькі, як).*

Займеннікавыя словы падзяляюцца на чатыры групы ў залежнасці ад таго, на што яны ўказваюць: займеннікавыя назоўнікі *(я, ты, мы, вы, ён, яна, яно, яны, хто, што, ніхто, нішто, нехта* і інш.), якія абагульнена ўказваюць на прадмет; займеннікавыя прыметнікі *(мой, твой, такі, гэты, які, каторы, чый, свой, яго, яе, іх, якісьці, які-небудзь, увесь, усякі, ніякі* і інш.), якія абагульнена ўказваюць на якасць, уласцівасць; займеннікавыя лічэбнікі *(колькі, столькі, нікольki, колькі-небудзь, некалькі, гэтулькі* і інш.), якія абагульнена ўказваюць на прыкмету па колькасці; займеннікавыя прыслоўі *(дзе, куды, адкуль, таму, туды, калі, дакуль, дзесьці, дзе-небудзь, аднойчы* і інш.), якія абагульнена ўказваюць на прыкмету іншай прыкметы, інакш кажучы — на розныя акалічнасці.

Указальны (а не называльны) характар значэння займеннікаў вызначае і характар таго сказа, у якім займеннік ужываецца. Такі сказ мае несамастойны характар. Сэнс яго становіцца поўнасцю зразумелым толькі тады, калі гэты сказ размяшчаецца ўслед за сказам, у якім паняцце абазначаецца не займеннікам, а знамянальным паўназначным словам. Напрыклад: *Андрэя разбудзіў сонечны прамень. Скупы і халодны, ён прасачыўся ў хату праз замёрзлую шыбіну* (А. Чарнышэвіч). Без першага сказа другі быў бы не зусім зразумелы. Ужыванне займенніка *ён* у другім сказе замест назоўніка *прамень* звязвае гэтыя два сказы ў адно сінтаксічнае цэлае. Так займеннік становіцца сродкам сувязі самастойных сказаў у тэксце.

Якія ж займеннікавыя словы ў сучаснай граматычнай навуцы адносяць да часціны мовы — займенніка? Гэта пытанне да канца не вырашана. Адны вучоныя (А. А. Патабня, А. М. Пяшкоўскі, Л. У. Шчэрба) не вылучалі займеннік як асобную часціну мовы, а кожную з вышэй адзначаных груп займеннікавых слоў разглядалі ў складзе адпаведнай часціны мовы (назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў і прыслоўяў). Другія (А. А. Шахматаў і яго паслядоўнікі) лічылі, што займеннікавыя назоўнікі і займеннікавыя прыметнікі — гэта ядро групы займеннікавых слоў, і былі схільны вылучаць іх ядро ў асобны лексіка-граматычны клас. Трэція (В. У. Вінаградаў, аўтары «Граматыкі сучаснай рускай літаратурнай мовы», 1970 і «Рускай граматыкі», 1980) прызнаюць мэтазгодным разглядаць у складзе займеннікаў як асобнай часціны мовы толькі займеннікавыя назоўнікі (т. зв. займеннікі-назоўнікі), гэтыя словы маюць індывідуальныя асаблівасці ў выражэнні граматычнага роду.

Традыцыйна ў школьнай практыцы да займеннікаў адносяцца займеннікавыя назоўнікі, займеннікавыя прыметнікі і займеннікавыя лічэбнікі. Гэтыя словы, у адпаведнасці з іх значэннем, падзяляюцца на дзевяць разрадаў: асабовыя *(я, мы, ты, вы, ён* і яго родавыя формы *яна, яно,* форма множнага ліку *яны);* зваротны *(сябе);* прыналежныя *(мой, твой, наш, ваш, свой,* асабовыя ў ролі прыналежных — *яго, яе, іх,* размоўныя адзайменнікавыя прыметнікі *іхні, ягоны, ейны, наскі);* указальныя [*гэты, той, такі, гэтакі* (размоўнае *гэткі*), *гэтулькі, столькі*]; азначальныя [*сам, самы, уся, усё, усе, увесь, усякі* (размоўнае *ўсялякі*), *кожны, іншы, інакшы*]; пытальныя *(хто?, што?, які?, каторы?, чый?, колькі?);* адносныя (тыя ж, што і пытальныя,— амонімы пытальным, якія выступаюць у ролі злучальных слоў у галоўнай частцы складаназалежнага сказа); адмоўныя *(ніхто, нішто, ніякі, нічый);* няпэўныя [*нехта, нешта, некаторы, нечы (нейчы), нейкі, абы-хто, абы-што, абы-які, абы-чый, хтосьці, штосьці, чыйсьці, якісьці, хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, чый-небудзь,* размоўныя *якісь, хтось, штосъ*]. Займеннікавыя назоўнікі і займеннікавыя прыметнікі скланяюцца, часткова скланяюцца і займеннікавыя лічэбнікі. Пры скланенні многіх займеннікаў утвараюцца формы ад розных слоў (суплетывізм), напрыклад: *я — мяне, мне* і пад., *ты — цябе, табе* і г. д., *мы — нас, нам* і г. д., *ён — яго, яму* і г. д. Значэнне адзіночнага і множнага ліку ў асабовых займенніках перадаецца супрацьпастаўленнем асобных слоў: *я* і *ты* — для адзіночнага, *мы* і *вы* — для множнага ліку, пры гэтым *мы* — гэта не 'многа я', а 'я разам з іншымі', *вы* — гэта не 'многа ты', а 'ты разам з іншымі'. Займеннік *вы* ўжываецца і як знак пашаны пры звароце да аднаго чалавека. Займеннікавыя прыметнікі змяняюцца па склонах, ліках і родах, канчаткі гэтых займеннікаў такія ж, як і ў прыметнікаў.

Усе займеннікавыя словы ў сучаснай мове складаюць замкнутую групу, якая амаль не папаўняецца новымі словамі. Пры марфемным аналізе ў няпэўных займенніках вылучаюцца постфіксы *-небудзь, -сьці,* размоўныя *-сь, -кольвек (хто-небудзь, хтосьці,* або *хтось, хто-кольвек)* і прэфіксы *не-, абы- (нехта, абы-хто),* у адмоўных — прэфікс *ні- (ніхто, ніякі).* Сувязь гэтых прэфіксаў з каранёвай марфемай не цесная: пры ўжыванні з прыназоўнікам прэфіксы размяшчаюцца перад прыназоўнікамі *(нé з кім, ні з якім, абы да чаго).*

У размоўных стылях магчыма ўжыванне некаторых займеннікаў з памяншальнымі або ласкальнымі мадыфікацыйнымі суфіксамі: *нічагусенькі, саменькі, нештачка* і падобныя: *Дай мне руку! Хадзем пад гараж — я табе нештачка пакажу...* (Я. Брыль).

Пры пранамiналізацыі (пераходзе слоў з іншых часцін мовы ў займеннікі) звычайна новыя словы-займеннікі не ўтвараюцца, адбываецца толькі зрух у значэнні слова: яно набывае агульнае значэнне ўказання на прадмет або на прыкмету, напрыклад: *у даны момант* 'гэты', *цэлы дзень* 'увесь': *Ад роднага стала, ад бульбы // Дарогі розныя вялі: // Адных — даўгі рубель і булкі // Завабілі на край зямлі. // Тых — залатая ліхаманка // Занесла ў непралазь пургі* (Р. Барадулін).

Значэнне займеннікаў набываюць у тэксце лацінскія літары *x, y, z,* вялікая літара *N,* назвы гэтых літар — *ікс, ігрэк, зэт, эн,* а таксама прыметнікі, утвораныя ад назвы літары *N — энны, энскі,* адпрыметнікавы назоўнік — *Энск,* напрыклад: *містэр Ікс, горад Энск, служыў у энскім палку, энны час правёў у экспедыцыі.*

Займеннікі лёгка субстантывуюцца і ўжываюцца як назоўнікі, напрыклад: *Не пазналі сваіх нашы, // Бярозавай далі кашы* (К. Крапіва); *Свая ад свайго не ўцякла* (А. Куляшоў). Асобныя займеннікі лёгка пераходзяць у часціцы: *снег усё ішоў і ішоў; сядзіць сабе і нічога не заўважае.*

За апошнія 5—6 стагоддзяў склад займеннікаў у беларускай мове амаль не змяніўся, адбыліся толькі фанетычныя змены. Самі ж займеннікі адыгралі важную ролю ў фарміраванні т. зв. поўных прыметнікаў: цяперашнія склонавыя канчаткі поўных прыметнікаў — гэта не што іншае, як былыя формы ўказальных займеннікаў *и,* ꙗ, ю.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## ЗАКОН «АБ МОВАХ У БЕЛАРУСКАЙ ССР»

Законам Вярхоўнага Савета БССР ад 26 студзеня 1990 г. быў адноўлены дзяржаўны статус беларускай мовы, аб чым унесены адпаведны дадатак у артыкул 68 Канстытуцыі БССР. Адначасова Вярхоўны Савет БССР прыняў і з 1 верасня 1990 г. увёў у дзеянне Закон «Аб мовах у Беларускай ССР».

Гісторыя стварэння праекта Закона, ход яго ўсенароднага абмеркавання і зацвярджэння вышэйшым заканадаўчым органам рэспублікі выявілі, што рух грамадства да нацыянальнага адраджэння Беларусі становіцца важнейшай праявай духоўнага жыцця Бацькаўшчыны. Для распрацоўкі праекта Закона была створана камісія з 49 дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў краіны, пісьменнікаў, вучоных, работнікаў шэрага галін грамадскага жыцця. Сярод іх Н. Мазай (старшыня камісіі), Н. Гілевіч (намеснік старшыні), З. Азгур, В. Быкаў, Г. Бураўкін, М. Дзямчук, П. Краўчанка, А. Падлужны, П. Садоўскі, Б. Сачанка, М. Яўневіч і інш. Праект Закона шырока абмяркоўваўся ў працоўных калектывах, навучальных установах, грамадскіх арганізацыях, а таксама ў сродках масавай інфармацыі. У ходзе абмеркавання толькі ў Вярхоўны Савет паступілі лісты, тэлеграмы, звароты, падпісаныя або ўхваленыя больш як 20 тысячамі чалавек. Аналіз грамадскай думкі паказаў, што большасць грамадзян Беларусі падтрымліваюць ідэю дзяржаўнага статуса беларускай мовы. Паводле дадзеных перапісу насельніцтва 1989 г. 80,2 працэнта беларусаў, якія жылі ў рэспубліцы, сваёй роднай мовай назвалі беларускую.

Закон «Аб мовах у Беларускай ССР» складаецца з 6 раздзелаў (агульныя палажэнні; мова дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый; мова адукацыі, навукі і культуры; мова інфармацыі і сувязі; мова найменняў; садзейнічанне нацыянальна-культурнаму развіццю беларусаў, якія жывуць за межамі БССР) і 36 артыкулаў. Ён рэгулюе моўныя працэсы ў грамадска-дзяржаўным жыцці краіны, вызначае правы грамадзян і акрэслівае абавязкі службовых асоб, у т. л. і дзяржаўных служачых усіх узроўняў у галіне моўных дачыненняў. Прэамбула Закона пачынаецца з выкладу яго галоўных ідэй, якія знаходзяць паслядоўнае выражэнне ў змесце нарматыўнай часткі акта: «Мова — не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова — жыве народ. Кожная мова, яе літаратурная, жывая, мясцовая і гістарычная разнавіднасці — неацэнны скарб, які належыць не аднаму, а ўсяму чалавецтву». У прэамбуле вызначаюцца таксама прычыны надання беларускай мове статуса дзяржаўнай: «У Беларусі здаўна жывуць людзі розных нацыянальнасцей, гучаць розныя мовы. Аднак у апошнія гады сфера ўжывання мовы канкрэтнага насельніцтва Беларусі, якое дало ёй імя і гістарычна складае асноўную частку жыхароў рэспублікі, значна звузілася, пад пагрозай апынулася само яе існаванне. Паўстала неабходнасць аховы беларускай мовы на дзяржаўна-этнічнай тэрыторыі».

Закон «Аб мовах...» прадугледжвае максімальнае пашырэнне беларускай мовы на ўсе сферы жыцця краіны. Шэраг палажэнняў Закона ўводзіцца ў дзеянне паступова, на працягу 3 (артыкулы пра мову дакументаў, мову ў сферы навукі, культуры, масавай інфармацыі і інш.), 3—5 (мова з'ездаў, канферэнцый, актаў органаў дзяржаўнай улады і інш.), 5 (мова справаводства і дакументацыі, сферы абслугоўвання і інш.) і 10 гадоў (мова судовага справаводства, права атрымання адукацыі на нацыянальнай мове і інш.). Згодна з пастановай Вярхоўнага Савета БССР урад распрацаваў «Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у БССР», якая была зацверджана 20 верасня 1990 г. Яна прадугледжвае правядзенне ў 1990—2000 гадах комплексу мерапрыемстваў, скіраваных на ажыццяўленне Закона. *Я. А. Цумараў.*

## ЗАМОВЫ

Замовы (шэпты, загаворы, нагаворы, малітвы) — адзін са старажытных жанраў фальклору, у якім ярка адбіліся асаблівасці мыслення чалавека на ранніх ступенях развіцця грамадства. Яны захоўваюць каштоўныя звесткі пра асаблівасці лексічнага фонду фальклорных твораў і шляхі пераарыентацыі рытуалізаванай мовы як сродку перадачы інфармацыі ў мастацка-вобразную сістэму.

Асаблівасць замоў у параўнанні з іншымі фальклорнымі жанрамі ў першую чаргу ў прызначанасці слова. Слова ў замовах — і сродак магічнага ўздзеяння, і сродак рэалізацыі закладзенага ў іх пажадання, сродак стварэння магічнага тэксту, магічнай формулы, паэтычнага вобраза. Функцыя замоў — уздзеянне менавіта словам — вызначае асаблівасці іх лексікі, паэтычных прыёмаў, рытмічнай, гукавой арганізацыі.

Паэзіі, вешчаму слову бадай усе народы прыпісвалі нябеснае паходжанне і чароўную сілу. І хоць некаторыя вучоныя лічаць, што замовам бракуе самагоднай эстэтычнай мэты з-за іх утылітарнага прызначэння, іх форма, рытмічная, гукавая арганізацыя тэксту, уласцівая ім метафарычнасць, шматзначнасць, выкліканая наяўнасцю абрадавага і міфалагічнага фонаў, як найлепш адпавядаюць эмацыянальнаму ўздзеянню і надаюць замовам эстэтычную каштоўнасць.

Замовы бытуюць у вуснай і пісьмовай форме. Апошнія адчулі ўплывы кніжнасці, яны большыя памерам, чым вусныя, але меней папулярныя. Як правіла, вусныя замовы перадаюцца рытмізаванай прозай. Надзвычайная вобразнасць замоў тлумачыцца іх старадаўнасцю. У іх шматслоўі, нагнятанні паясняльных слоў, багацці эпітэтаў адлюстраваліся асаблівасці мовы і думкі чалавека, калі ён не ўмеў яшчэ думаць абстрактна. Яго думка, як і слова,— канкрэтны малюнак.

Форма замовы, яе кампазіцыя ўплываюць у пэўнай ступені на лексіку і фразеалогію твораў, хоць ва ўсіх выпадках захоўваецца абрадава-кананічны стыль. Маналагічным замовам найбольш уласціва эпічнасць, што рэалізуецца ў паслядоўным выкарыстанні паўтораў, пералічэння, формульнасці. Дыялагічныя замовы, нягледзячы на апісанне незвычайнай сітуацыі і наяўнасць хрысціянскіх боствў як дзейных асоб, збліжаюцца з гутарково-бытавымі выказваннямі: *Хадзіла па ржышчу, па мургавішчу, скалола свае ножкі і вочкі, ідзець і плача. Маць прачыстая ідзець:*

*— Чаго ты, N, плачаш?*

*— Як жа мне, мамка прачыстая, не плакаць. Хадзіла па ржышчу, па мургавішчу і скалола вочкі, і скалола ножкі, і звіхнула.*

*— Раба божая N, не плач, не рыдай. Едзя Юрай на сівым кані, за ім бяжыць тры харты....*

Лексіка замоў надзвычай разнастайная. Пры спалучэнні кніжнай хрысціянізаванай лексікі з гутарковай адбываецца зніжэнне першай, прыстасаванне яе да блізкіх па іншых фальклорных жанрах прыёмаў і вобразаў. Царкоўная лексіка найбольш захавалася ў малітоўных уступах, кніжных замовах. У большасці вусных замоў нават з хрысціянізаванымі матывамі шмат бытавых замалёвак, этнаграфічных рэмінісцэнцый, мова іх набліжаецца да гутарковай (у замове ад звіху: *Хрыстос хадзіў па гарах і межах, шатаўся, валяўся і звіху не баяўся*).

Замоўныя дыялогі генетычна ўзыходзяць да абрадава-заклінальных дыялогаў-рытуалаў, магічная функцыя якіх падтрымлівалася верай у дзейснасць пажадання, выказанага параўнаннем яго з нечым дастаткова вядомым і надзейным. Таму параўнанне ў замовах, бадай, самы распаўсюджаны прыём, што дало падставу некаторым вучоным лічыць параўнанне вызначальнай прыкметай замовы. Самыя простыя параўнанні ўтвараюць формулу *як — так: Есь тры ца-*

*ры: первы цар — чорны рак у моры, другі цар — белы воўк у полі, трэцці цар — вясёл месяц у небі. Як етым царам уместо не сходзіцца, за століком не сядзець, хлеба-солі не з'ядаць, так ету скаціну чэмерам не браць; Як жа нем сук у дрэві, анямей нямей етаго сука; Як сухой елі атростку не пушчаць, так етаму чалавеку зломузвіху ня бываць.*

Вылучаецца група замоў без слоў *як — так.* Тут жаданы вынік малюецца пераважна як ужо здзейснены: *Ішло тры панны, няслі глёк вады; глёк разбіўся, вада разлілася, у раба божжаго кроў унялася; Ішоў Бог Сус Хрыстос цераз залаты мост. Масьніца праламілася, у раба божага Сямёнькі ўрокі атваліліся.*

Параўнанні ў замовах бываюць адмоўныя, калі першая частка іх з часціцай *не,* а другая — з адмоўем *ні: Быў я ў матушкі сорак нядзель; ня відаў я ні божжага свету, ні прасоваго парэзу, ні тапорнага замаху, ні краснаго сонца, ні яснаго месяца. Злато залатое, сэрца маё, сцень медзяны, душысь; Ішоў пан Езус дарожкай, нікога не спаткаў, ні псоў, ні ваўкоў, ні гадзюкаў, ні злых людзей. Пайду і я за ім па яго слядочках, па яго сцежачках.* Некаторыя параўнанні вельмі блізкія да праклёнаў: *Як гразь чорна, так штоб і ён счарнеў, і схляў, і счах.*

Параўнанне ў замовах звычайна праводзіцца з такімі прадметамі, з'явамі, магутнасць або заканамернасць дзеянняў якіх не выклікае сумнення. Гэта найперш сонца, зоркі, пярун і маланка, агонь, вада, навакольны матэрыяльны свет — жывёлы, дрэвы, расліны, а таксама біблейскія вобразы *(Як сонейка за хмару заходзіць, каб так рабу божаму ўрок і падзіў праходзіў; Як агонь коціцца, так ад N ведзьма вароціцца; ...як ніхто не моэць уняць ні грома, ні молніі, ні вострай стралы, так ніхто ня моэць уняць мяне раба божага стралца...).*

З разгорнутых параўнанняў *(Як чорнаю кароваю па мору не араці, чорным катом не баранаваці, жоўтым пяском не сеяці, у жоўтым пяску каласку не биваці, так ліхім людзям яго здароўечка не ўцінаці)* развіліся формулы немагчымага, якія шырока вядомы познетрадыцыйным лірычным песням і баладам.

Функцыянальная роля параўнанняў у замове не толькі ў выяўленні галоўнай думкі твора, выказванні пажадання, але і ў тым, што яны з'яўляюцца эстэтычна арганізуючым структурным элементам твора: гэта завяршальнае сцверджанне, пасля якога можа быць толькі закрэпка.

Замовам уласціва ўстойлівасць формы, наяўнасць стэрэатыпных прыёмаў і формул. Існуюць пачатковыя, сярэдзінныя і заключныя формулы. Найбольш стабільныя пачатковыя і заключныя. Формулам-зачынам часам папярэднічаюць малітвы (даніна хрысціянскай традыцыі). Зачыны, як і іншыя формулы, у рэпертуары аднаго заклінальніка або ў пэўнай мясцовасці маглі пераходзіць з твора ў твор. Найбольш характэрны зачын — *Першым разам, добрым часам. Госпаду Богу памалюся і святой Прачыстай пакланюся, святому Міколі, Тройцы й Пакрові, і яснаму месяцу, праведнаму сонійку і частым звяздом, усёй святой сілі нябеснай* (яго вучоныя лічаць беларускім) або: *Устану я, раб божы, раненько, умыюся бяленько, памалюсь богу вярненько, выйду я на крутую гару, гляну я на ясную зару.* Формулы-зачыны апісваюць таксама месца дзеяння: *На моры-акіяні, на востраве Буяні; На сінім моры, на беражочку, на жоўтым пясочку стаіць дуб зялёны...* Заключныя формулы бываюць кароткія або разгорнутыя. Кароткая формула *любі мой лёгкі дух* можа перарастаць у разгорнутую: *Ні сваімі думамі, а гасподнімі славамі, прылюбі мой душок ціхенькі, лягенькі, дай, госпадзі, на помач.*

У асноўную частку замоў уваходзяць формулы ці іх блокі, якія спалучаюцца з эпічным апісаннем ці дыялогам. Гэта формулы пераліку (злых сіл, хвароб, частак цела, з якіх хвароба выганяецца), формулы пагрозы і выгнання, формулы лекавай парады. Пералік надзвычай дэталізаваны. Падрабязна пералічваюцца не толькі аб'екты заклінання, але ўсе магчымыя месцы, адкуль зло паходзіць і дзе яно можа захавацца. Замоўныя формулы-пералічэнні — найбольш старажытныя схемы класіфікацыі прыродных з'яў, жывых істот, анатама-фізіялагічныя схемы. Паказальныя, напрыклад, пералікі змей, дзе яны класіфікуюцца паводле: спосабу перамяшчэння *(паўзучыя, плывучыя, лятучыя),* часу нараджэння *(пярвовая, друговая, дзесятовая),* колеру, знешняга выгляду *(чорныя, рабыя, жаўтабрухія),* месца гнездавання *(падмежныя, падтынныя, лясовыя, гнаёвыя, падкалодныя, запечныя)* і г. д. Тут ярка праяўляецца рэальная аснова, адлюстраванне навакольнага, назіральнасць, веды людзей. А вось прыклад лекавай замовы ад пералогаў: *...Ішлі пералогі па шырокай дарогі да каню ў ногі, а з ног у морду, а з морды ў ноздры, а з наздзёр у вочы, а з вачэй да ў вушы, а з вушэй у галаву, у мазкі, і ў жылы, і ў суставы, і ў кроў, а з крыві да ў косьці, а з касьцей да ў скуру, а з скуры да ў грыву, а з грывы да ў хвост, а з хваста далоў.*



**Том «Замовы» з серыі «Беларуская народная творчасць». 1992.**

Адносіны да хвароб як да жывых істот, персаніфікацыя іх абумовілі змест і форму клішыраваных частак тэкстаў з пагрозай выгнання, характар адсылкі, ужыванне звароту, загаднай формы дзеяслова *(Ідзі, звіх, на мхі, на балоты, на ніцыя лозы, дзе людзі не ходзяць, петухоў голас не даходзіць. Ідзі, звіх, на асіну, ламі асіну...)* і апісанне тых даброт, якія чакаюць хваробу на новым месцы *(На сінім моры чары залатыя, напіткі дарагія, падушкі пуховыя, засцілкі цьвілёвыя, там вам добра будзець),* апісанне кары, якая чакае хваробу ў выпадку непаслушэнства *(Ня будзеш жа ты выходзіць, скула-скуліца, вазьму дванаццаць прутоў і дванаццаць ігол, буду скуліцу калоць і пароць, сеч і рубаць, на зялёныя лугі выганяць і на шчырыя бары...).*

Уплыў антрапаморфных уяўленняў адбіўся на традыцыі маляваць хваробы ў выглядзе чалавека, найчасцей жанчыны *(скула-скуліца, красная дзявіца).* У выглядзе дванаццаці (у іншых выпадках 77 — папулярная ў замовах сімвалічная лічба) дзяўчат або цётак выступае ў замовах *ліхаманка,* па-народнаму — *хінця, хінцюха, цётка, цяцюха, трасца.*

Адным з важных элементаў формул з'яўляецца эпітэт. «Скразны» эпітэт — адзін эпітэт да розных паняццяў, які настойліва паўтараецца, праходзіць праз увесь тэкст. У замовах ад агню, пажару такім бывае прыметнік *чырвоны (красны): Ехаў Кастанцін на красным кані ў красным жупані, у красных чобатах, у красных нагавіцах і ў краснай шапцы.* У замовах ад урокаў карове паўтараецца эпітэт *чорны: Ішоў дзед чорнаю дарогаю, чорныя пасталы, чорныя валокі, чорныя анучы, чорныя штаны, чорна рубашка, чорна світа, чорна папруга, чорна шапка. Стаў чорнага дуба рубаці, сталі асколкі лятаці.* Такое нагнятанне пэўнай якасці надае вобразу большую выразнасць, яно абумоўлена імкненнем узмацніць сілу замовы. Тут і выяўленне сімволікі колеру.

У замовах шмат і іншых відаў эпітэтаў — найперш таўталагічных і паясняльных. Таўталагічныя эпітэты надзвычай разнастайныя і пашыра-

ныя. Мэта іх — акцэнтуацыя самага істотнага ў прадмеце, дзеянні або жывой істоце. Так, само слова *маладзік* азначае «малады месяц, які толькі нарадзіўся». У замовах да яго дадаецца яшчэ азначэнне *малады, маладзенькі*, якое ў спалучэнні з наступным разгорнутым азначэннем стварае закончаны паэтычны вобраз. *Маладзік маладзенькі, маладзік малады, князь залаты* — не проста месяц, да якога прызвычаіліся, а адметны, незвычайны, таму і валодае неабходнай для жаданага выніку сілай.

Асабліва часта таўталагічныя эпітэты сустракаюцца ў замовах ад скулы. Скула, пакуль выспявае, мяняе колер, памер і г. д., ад розных прычын бывае рознай, што і адбіваецца ў замовах: *Скула-скуліца, сіняя сінявіца, красная краснавіца; ...угаварую... скулу красную краснуху, сінюю сінюху, белую бялуху, жоўтую жаўтуху; скулу белую бялюгу, красную краснюгу, сінюю сінюгу, жоўтую жаўтугу; красную краснавіцу, колкую калкавіцу, чорную чарнавіцу, бурую буравіцу, белую белавіцу.* Якое багацце адценняў у адных і тых эпітэтах!

Канкрэтнасць адлюстравання, звязаная з натуралістычна дакладнай характарыстыкай, вымагалася мэтай замоў — назваць галоўнае ў прадмеце або з'яве, паказаць на непасрэдны аб'ект ва ўсёй сукупнасці яго істотных асаблівасцей. Такая канкрэтнасць уласціва творам заклінальнага характару, у якіх ад дакладнасці і выразнасці слова залежала сіла іх уздзеяння. Таму так неабходнымі былі паўторы, таму так вар'іраваліся вызначальныя характарыстыкі. Вось яшчэ прыклад азначальных утварэнняў, эпітэтаў-прыдаткаў у доўгіх пералічэннях відаў скулы: *Скула-скуліца, красна краснавіца, бела бяліца, сіняя сініца, чорна чарніца, рожа разавіца, скула ніца, скула-камяніца, скула-муравіца, скула-пляснівіца, скула-пайзуха, скула-залатуха, скула-ангіна, скула-нежыперсніца...*

Варта звярнуць увагу на багацце суфіксальных утварэнняў. Мы ўжо бачылі, як ад аднаго і таго прыметніка, напрыклад *белы, сіні, жоўты*, утвараліся розныя словы, кожны раз са сваёй нюансіроўкай, што стварае няўлоўна адметны, але заўсёды дзіўны, паэтычны фон: *сіня сінявіца, жоўта жаўтавіца; сіняя сінюха, жоўтая жаўтуха, белая бялуха; сіняя сінюга, белая бялюга; бела бяліца, сіня сініца* і г. д. У дачыненні да хваробы характарыстычныя азначэнні ствараюцца пры дапамозе суфіксаў. Асабліва часта гэта слова з суфіксам *-ішч-*. З аднаго боку, такія словы надаюць з'яве ці прадмету, стану чалавека гіпербалічны характар, з другога — тут адценне варожасці, пагарды, наўмыснае прыніжэнне. Гэта таксама абумоўлена прызначанасцю замоў: негатыўныя адносіны да хваробы ці іншага зла азначаюць упэўненасць, што яе можна перамагчы: *Бег вайчок-вайчышча, разінуў рацішча. Ты вайчок-вайчышча, бяры Івана начышча, нясі дзеткам.* Той самы эфект дасягаецца і з дапамогаю іншых суфіксаў: *грызьгрызяўка, паганая казяўка; красушнік, сухотнік, ламотнік, пякотнік, не хадзі, не крышы; Ідзі ты, крыксівіца, ідзі ты, плаксівіца, ідзі ты, несанота, ідзі ты, недрамота.* Такія азначэнні прыцягваюць увагу незвычайнасцю і таму даюць веру ў надзвычайныя магчымасці слова. Тут і спрадвечная любоў чалавека да прыгожага, трапнага, дасціпнага слова.

Акрамя метафарычных, для замоў характэрны так званыя аб'ектыўныя эпітэты, паясняльныя. Яны падкрэсліваюць якую-небудзь адну галоўную якасць і выконваюць у асноўным апісальна-выяўленчую функцыю. Так, вада, якая павінна змыць хваробу, вымывае *крутыя* берагі, *жоўтыя* пяскі, *сырое* карэнне, *белае* каменне, *чорнае* краменне. Хваробу выганяюць з *буйнай* галавы, *жоўтага* мозгу, *рацівага* сэрца, *гаручай* крыві, *цёплага* мяса і г. д. У замовах многія эпітэты настолькі паядналіся з пэўнымі словамі, што сталі пастаяннымі. Яны садзейнічаюць кансервацыі пэўных мастацкіх прыёмаў, уваходзяць як неабходная частка ў формулы, ствараюць пэўныя клішэ, якія лёгка ўключаліся ў розныя творы (формулы, што абазначалі месца ссылкі хваробы і інш.).

У замовах побач ужываюцца паясняльныя эпітэты і метафарычныя: *рабацяшчыя* ручачкі, *пахадзяшчыя* ножачкі — эпітэты-характарыстыкі па дзеянні прадмета і *воўчая* галава, *канапляныя* ногі ў ляка — метафарычныя.

Мастацкія прыёмы ў замовах павінны ўзмацніць сілу слова, вылучыць яго важнасць, падкрэсліць значнасць. Гэта найперш паўторы (сэнсава-сінтаксічных канструкцый, асобных слоў, злучнікаў, прыназоўнікаў і г. д.). Тое, што мы вызначаем зараз як мастацкі прыём, у замовах было неабходнай формай выяўлення пажадання. Напрыклад, матыў паступовага выгнання хваробы з адной часткі цела ў другую (у жывёлы са спіны ў нагу, з нагі ў капыт, адтуль у зямлю і г. д., або з жыл, з пажыл і г. д.) атрымаў развіццё ў мастацкім прыёме ступеннага звужэння вобраза. Замовам характэрна спалучэнне апавядальнай і рытмізаванай мовы, што ідзе ад першабытнага сінкрэтызму. Адным словам, у іх мы знойдзем усё багацце паэтычнай мовы і гэта багацце абумоўлена утылітарнай функцыяй замоў. Сапраўды, тут безадказна дзейнічае прынцып: што карысна — тое прыгожа, што прыгожа — тое карысна.

*Літ.:* Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вып. 5. Заговоры, апокрифы и духовные стихи. Витебск, 1891; Познанский Н. Заговоры. Опыт исследования происхождения и развития заговорных формул. Пг., 1917; Астахова А. М. Художественный образ и мировоззренческий элемент в заговорах. М., 1964; Топоров В. Н. Заговоры и мифы // Мифы народов мира. М., 1980. Т. 1; Барташэвіч Г. А. Магічнае слова. Мн., 1990.

*Г. А. Барташэвіч.*

## ЗАПАЗЫЧАННІ

Запазычаннямі ў мове называюцца лексічныя, марфалагічныя або фанетычныя сродкі, што перайшлі з іншых моў у выніку моўнага ўзаемадзеяння. Яны абумоўлены сацыяльна-эканамічнымі, дзяржаўна-палітычнымі і культурнымі зносінамі паміж народамі. Запазычванне адбываецца непасрэдна з моў-крыніц і праз пасрэдніцтва іншых моў двума шляхамі — вусным, ва ўмовах размоўных кантактаў з носьбітамі іншых моў, і пісьмовым — праз кнігі, афіцыйныя дакументы і прыватную перапіску. Найбольш актыўна яны праяўляюцца ў галіне слоўнікавага складу і садзейнічаюць узбагачэнню і ўдасканальванню лексічнай сістэмы мовы. Запазычанні прыходзяць разам з новымі рэаліямі, з'явамі і паняццямі, пад уплывам моды і ў сувязі з неабходнасцю выдзеліць адценні значэнняў і інш., а таксама побач з уласнымі словамі мець сродкі міжнароднай тэрміналогіі. Яны падпарадкоўваюцца законам фанетыкі, граматыкі, правілам словаўтварэння і семантычнай сістэме мовы, якая запазычвае.

Па ступені асіміляванасці запазычанні вар'іруюць ад цалкам асвоеных да асвоеных часткова, па адной якой-небудзь прыкмеце. Цалкам асвоенымі лічацца словы, у фанетыка-марфалагічным афармленні і семантыцы якіх не застаецца нічога, што ўказвала б на іх іншамоўнае паходжанне, напрыклад, беларускія *блакітны, булка, вага, гарбуз, дзірван, праца, салата, сталяр, сукенка, школа.* Да запазычанняў, асвоеных часткова, належаць экзатызмы — словы, якія абазначаюць прадметы і паняцці, уласцівыя палітычнаму, эканамічнаму і культурнаму жыццю іншых народаў. Звычайна яны асвоены толькі фанетычна і марфалагічна, але не лексічна, бо ў сваім значэнні маюць нешта чужое, што напамінае аб іх іншамоўным паходжанні, напрыклад у беларускай мове словы *абэрак, злоты, ксёндз; лейбарыст, лэдзі, пенс; кюрэ, сантым, франк; бундэсвер, бундэстаг, пфеніг; аксакал, бешмет, чалма* ўспрымаюцца як сродкі характарыстыкі адпаведна польскай, англійскай, французскай, нямецкай рэчаіснасці і быту цюркскіх народаў. Прамежкавае становішча паміж экзатызмамі і цалкам асвоенымі словамі займаюць лексічныя сродкі іншамоўнага паходжання тыпу *бюро, даміно, дражэ, дэпо, жабо, журы, інтэрв'ю, камюніке, кіно, лібрэта, метро, паліто, пано, рэзюме, трумо*, якія, нягледзячы на шырокае ўжыванне ў

беларускай мове, не атрымалі яшчэ здольнасці змяняцца па склонах.

Уласцівыя сучаснай беларускай мове запазычанні прыйшлі ў розны час і з розных моў. З адных яны адзінкавыя, з іншых утвараюць адносна шматлікія групы. Сярод даўніх беларускіх запазычанняў сустракаюцца словы, звязаныя сваім паходжаннем больш чым з дзесяткам моў. Найбольш значную частку сярод іх складаюць лексічныя адзінкі, якія на працягу 14—18 ст. увайшлі ў беларускі слоўнік з заходнеславянскіх і заходнееўрапейскіх моў. Шырокаму пранікненню іншамоўных слоў з Захаду садзейнічала геаграфічнае становішча Беларусі, што з'яўлялася месцам сутыкнення інтарэсаў многіх краін, а таксама наладжванне беларусамі гандлёва-эканамічных, грамадска-палітычных і культурных кантактаў з заходнімі народамі. Папаўненню слоўнікавага складу беларускай мовы за кошт лексікі заходніх моў спрыяла таксама распаўсюджанне на Беларусі ідэй Рэфармацыі, якія далі моцны штуршок развіццю асветы, навукі, кнігадрукавання, павысілі цікавасць адукаваных колаў да антычнай культуры і культурнай спадчыны еўрапейскага Адраджэння, павялічылі імкненне мяшчанскай і шляхецкай моладзі да набыцця вышэйшай адукацыі ў заходнееўрапейскіх універсітэтах (першы універсітэт у Вялікім княстве Літоўскім быў адкрыты ў 1578 г. ў Вільні).

Самыя буйныя пласты запазычанняў у лексічнай сістэме беларускай мовы ўтварылі паланізмы, лацінізмы і германізмы. Пранікненню польскіх лексічных сродкаў, акрамя адзначаных фактараў, адкрывала рэальную магчымасць тое, што беларуская мова на працягу амаль чатырох стагоддзяў развівалася ва ўмовах беларуска-польскага двухмоўя. Першапачаткова больш пранікальнай для польскай лексікі было дзелавое пісьменства, на якое ўплывалі насычаныя паланізмамі дакументы на беларускай мове, што паступалі ў Вялікае княства Літоўскае з каралеўскай канцыляры ў Кракаве. Гэта было заканамерным, бо беларуская мова ў Вялікім княстве Літоўскім была дзяржаўнай мовай. Пазней інтэнсіўным стаў прыток польскіх слоў і ў мову іншых жанраў пісьменства, а таксама ў беларускую гутарковую мову. Асабліва ўзмацніўся ён з другой палавіны 16 ст., пасля Люблінскай уніі 1569 г., калі тэрыторыя Беларусі, як і ўсё Вялікае княства Літоўскае, аказалася ў складзе Рэчы Паспалітай. Ад таго часу ў беларускай мове захаваліся паланізмы *быдла, вензель, відэлец, замак, заядлы, зброя, здрада, кавадла, курок, маёнтак, моц, падданы, палкоўнік, пан, паядынак, скарб, сукенка, хлопец, чвэрць* і інш., што замацаваліся пераважна ў сферы побыту. Польская мова выконвала асноўную ролю і ва ўзбагачэнні беларускай лексікі лацінскімі словамі, а з другой палавіны 16 ст. ў сувязі з пашырэннем на тэрыторыі Беларусі грамадскіх і культурных функцый лацінскай мовы лацінізмы запазычваліся і непасрэдна. Ад старажытнасці ў беларускай мове шмат тэрмінаў лацінскага паходжання, звязаных пераважна з грамадска-палітычным жыццём (*адміністрацыя, дакумент, дэпутат, камісія, кандыдат, канстытуцыя, канцылярыя, мандат, місія, працэс, сакратар, статут*), сацыяльна-эканамічнай сферай (*арэнда, ганарар, кааперацыя, кантракт, квота, манаполія, рота, рэвізор, сума, такса, тастамент, эканомія*) і асабліва са сферамі навукі, асветы, літаратуры, мастацтва (*медыцына, прафесар, студэнт, экзамен, аўтар, верш, колер, лектар, літара, мінус, музыка, нота, арнамент, тэкст, фабула*).

Словы нямецкага паходжання пранікалі ў беларускую мову непасрэдна ад нямецкіх гандляроў, а таксама ад каланістаў, рамеснікаў і вайсковых спецыялістаў, якія запрашаліся ў Вялікае княства Літоўскае, і праз польскае пасрэдніцтва, найбольш у другой палавіне 16 і ў 17 ст., калі паланізацыя беларускага насельніцтва стала надзвычай інтэнсіўнай. І цяпер у беларускай мове ўжываюцца запазычаныя ў той час германізмы з галіны рамяства, будаўніцтва, тэхнікі (*гафтаваць, варштат, гонта, дах, кафля, муляр, мур, рама, тынкаваць, цвік, цэгла, слесар*), ваеннай справы (*афіцэр, варта, вахта, куля, панцыр, рота, штурм, штык*), гандлёвай сферы (*гандаль, гандляваць, гатунак, кірмаш, кошт, крама, рынак, шынкаваць*), бытавога і гаспадарчага жыцця (*зэдаль, кнот, кухня, ліхтар, труна, фартух, шафа, шуфляда, ланцуг, скіба*) і інш.

У 16—17 ст. беларуская лексіка папоўнілася, пераважна праз польскую мову, французскімі словамі (*візіт, драгун, канвой, карабін, марш, мушкет, партфель, парфума, пашпарт, пісталет, форт*), італьянскімі (*гвардыя, кавалер, канцэрт, капітан, карнет, карэта, коўдра, лімон, лютня, палац, пасквіль, салата*), чэшскімі (*брама, гарцаваць, каптур, мешчанін, праца, працаваць, табар, франт*), венгерскімі (*гайдук, гусар, магерка, шарэнга*) і інш. Па інтэнсіўнасці запазычвання лексікі заходняга паходжання другая палавіна 16 і пачатак 17 ст. з'явіліся ў гісторыі беларускай мовы такім жа перыядам, якім праз стагоддзе стала для рускай мовы пятроўская эпоха.

Акрамя наладжвання ўсебаковых сувязей з Захадам, у выніку якіх лексічная сістэма беларускай мовы ўзбагацілася тысячамі новых слоў, беларусы на працягу сваёй гісторыі мелі сувязі і з іншымі народамі. Найбольш працяглымі і трывалымі былі зносіны з літоўцамі — заканамерная з'ява ва ўмовах блізкага суседства і шматвяковага знаходжання Беларусі і Літвы ў адной дзяржаве. Вынікам літоўскага моўнага ўплыву стала замацаванне ў беларускай мове літуанізмаў бытавога характару (*атоса, венцер, дойлід, ёўня, клуня, коўш, куль, свіран, склют, сціpта, торп, шула* і інш.). Некаторыя літуанізмы маюць вузкатэрытарыяльны ўжытак (*аруд, бонда, груца, крушня, ройста, рэзгіны*). Літоўскімі па паходжанні з'яўляюцца ў беларускай мове таксама некаторыя тапанімічныя назвы і прозвішчы (*Ашмяны, Гудагай, Жупраны, Канвелішкі, Юрацішкі; Вайцюль, Лукша, Мархель, Марцуль, Юргель*).

Большасць цюркізмаў прыйшла ў беларускую мову на працягу 14—17 ст. у выніку непасрэдных кантактаў беларускага насельніцтва з прадстаўнікамі цюркскіх народаў (пераважна з крымскімі татарамі) і праз пасрэдніцтва суседніх моў — рускай, украінскай, польскай. З таго часу ў беларускай мове ўжываюцца цюркізмы бытавога характару (*аршын, атлас, барсук, барыш, казак, капшук, каўпак, кафтан, кілім, кумыс, кутас, нагайка, саф'ян, султан, тасьма, тафта, уюк, харч, чапрак, шаравары, юхт*). Слоўнікі беларускай мовы фіксуюць таксама шэраг устарэлых цюркізмаў (*апанча, армяк, казна, камка, кісцень, таф'я*). Некаторыя даўнія цюркізмы перайшлі ў разрад гістарызмаў (*бунчук, есаул, калчан, мурза, сагайдак, тамга, янычар, ясак, ясыр*).

Прыток у беларускі слоўнік грэцызмаў быў параўнальна невялікі на працягу 14—18 ст., хоць агульная колькасць слоў грэчаскага паходжання, якія ўжываліся ў старабеларускай мове была даволі значнай. Але пераважная большасць іх, звязаная, як правіла, са сферай рэлігійнага жыцця, была запазычана і асвоена ўжо старажытнарускай мовай, калі пасля прыняцця хрысціянства інтэнсіўна фарміравалася праваслаўная царкоўная тэрміналогія. У перыяд жа самастойнага развіцця ўсходнеславянскіх моў у новых рэлігійных тэрмінах ужо амаль не было патрэбы, таму грэчаскі лексічны струмень у старабеларускай мове істотна звузіўся. Крыху ажыўлялі яго толькі лексічныя адзінкі з галіны навукі і культурнага жыцця, якія паступалі пераважна з двух каналаў — праз пераклады з грэчаскай мовы рэлігійнай і навуковай літаратуры і дзякуючы вывучэнню грэчаскай мовы ў праваслаўных брацкіх школах. Частка з іх увайшла ў лексічны склад сучаснай беларускай мовы (*алегорыя, арыфметыка, астраномія, геаметрыя, граматыка, догма, дыялог, камедыя, космас, муза, падагра, стыхія, хаос, хор* і інш.).

У наш час іншамоўная лексіка трапляе ў беларускі слоўнік, як правіла, праз рускую мову. Пераважна такім шляхам на працягу 20 ст. беларускі лексічны склад папоўніўся многімі англійскімі словамі (*бізнес, блакнот,*

*джэм, докер, імпарт, кекс, лідэр, ліфт, матч, мітынг, мічман, пудзінг, фініш)*, нямецкімі *(бутэрброд, вафля, гантэль, гільза, муфта, фарш, фланг, цэйтнот, штапель, штопар, шырма)*, французскімі *(аванс, асамблея, баланс, кар'-ера, мантаж, рэжым, сюжэт, трумо, фюзеляж, шантаж)*, галандскімі *(боцман, гавань, матрос, рэйд, трум, шторм, штурман)*, іспанскімі *(какава, кавалькада, эмбарга, эстрада)* і г. д. Значная частка даўніх і сучасных беларускіх лексічных запазычанняў стала зараз інтэрнацыяналізмамі — словамі, уласцівымі ў тым жа значэнні мовам розных моўных груп. У складзе інтэрнацыянальнай лексікі асабліва вылучаецца вялікая група лексічных адзінак, утвораных на базе словаўтваральных элементаў грэчаскай і лацінскай моў. Сярод іх асноўнае месца займаюць спецыяльныя тэрміны з розных галін навукі і тэхнікі *(астрабіялогія, аэробус, баракамера, батыскаф, відэатэлефон, геранталогія, інтраскоп, камп'ютэр, кардыяхірургія, метагалактыка, мікраэлектроніка, нейрапсіхалогія, плазмахімія, поліэтылен, рэтранслятар, селенадэзія, спелеалогія, тэрмапласт, фатоніка, электрамабіль* і інш.). Прыкметна развіваецца ў наш час за кошт запазычанняў таксама грамадска-палітычная тэрміналогія *(апартэід, гегеманізм, генацыд, кантыненталізм, канфармізм, канфрантацыя, мемарыял, неаавангардызм, неакаланіялізм, супермен, хунта, эскалацыя* і інш.).

У меншай ступені запазычанні характэрныя для граматыкі (напрыклад, польскія паводле паходжання формы назоўнікаў на *-аві/-еві* ў давальным склоне адзіночнага ліку, уласцівыя старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове і паўднёва-заходнім беларускім гаворкам: *сынові, коневі*) і фанетыкі (гук *ф* і выбухны *г* у беларускай мове: *фарба, фігура, футра; ганак, гонта, гузік*).

Працэс запазычвання актывізуецца ў перыяды найбольш глыбокіх грамадскіх пераўтварэнняў, як, напрыклад, у старажытнарускай і старапольскай мовах эпохі распаўсюджвання хрысціянства, у рускай мове часоў пятроўскіх рэформ, у мовах народаў былога СССР пасля 1917 года. Асаблівая інтэнсіфікацыя запазычвання назіраецца ў варунках двухмоўя.

Асобны разрад іншамоўных слоў складаюць варварызмы, якія амаль заўсёды знаходзяцца за рамкамі літаратурнай мовы і не адлюстроўваюцца ў слоўніках. Сярод іх адзначаюцца лексічныя адзінкі інтэрнацыянальнага характару, якія могуць быць ужыты ў тэкстах любой мовы, і індывідуальныя аўтарскія іншамоўныя ўкрапванні. Варварызмы звычайна не перакладаюцца і перадаюцца на пісьме або арфаграфіяй арыгінала, як лацінскія ab ovo, ad hoc, dixi, cito, ergo, post factum, французскае tête-à-tête, або беларускімі літарамі, як лексемы англійскага і французскага паходжання *(ак'ей, банжур, мерсі, пардон)*, назвы замежных газет, часопісаў, прадпрыемстваў, арганізацый тыпу «Нью-Йорк таймс», «Шпігель», «Джэнерал мотарс», «Токіо сімбун» ці проста выпадковыя лексічныя элементы, ужытыя ў тэкстах і перыядычнай прэсе з пэўнай стылістычнай мэтай, як у выпадках: *Віва, Куба!, Салям, Масква!* і інш. У мастацкай літаратуры варварызмы выконваюць разнастайныя стылістычныя функцыі, служаць сродкамі апісання побыту, культуры, грамадска-палітычнай арганізацыі іншай краіны або для перадачы мясцовага каларыту пэўнага сацыяльнага асяроддзя, для стварэння гумарыстычных сцэн, выражэння іранічных адценняў, моўнай характарыстыкі дзейных асоб, паказваюць індывідуальную манеру пісьменніка і г. д. Выдатныя ўзоры такога выкарыстання польскіх слоў знаходзім, напрыклад, у літаратурна-мастацкіх творах Якуба Коласа, які добра ведаў польскую мову і асабліва шляхецкі жаргон (паланізмы *бюрко, васпан, галган, гміна, дзеньковаць, пастарунак, псякрэў, саквестратар, фацэт, хэнць, ягамосць* у паэме «Рыбакова хата»). Варварызмы нямецкага паходжання тыпу *гезунд, ляндратура, морген, нікс, орднунг, фатэр, фрыштык* удала выкарыстоўвае Я. Брыль у кнізе «Птушкі і гнёзды». У сувязі з запазычваннем рэаліі, з'явы або паняцця, якія абазначаюцца гэтымі лексічнымі сродкамі, а таксама ў выніку частага ўжывання яны могуць ператварацца ў паўнацэнныя запазычанні.

Узаемадзеянне на лексічным узроўні паміж рознымі мовамі праяўляецца не толькі ў запазычванні слоў, але і ў так званым калькаванні, калі па словаўтваральнай мадэлі іншамоўнага слова на аснове ўласных моўных элементаў ствараюцца новыя словы. Найбольш пашыраныя ў беларускай мове лексічныя калькі — словы, утвораныя паслядоўным памарфемным перакладам іншамоўных слоў, напрыклад: *абвяржэнне, безабаронны,, працаздольны, цемрашал* (параўнайце рускае *опровержение, беззащитный, трудоспособный, мракобес*). Практыкуюцца таксама фразеалагічныя калькі — семантычна непадзельныя выразы, утвораныя даслоўным перакладам, напрыклад: *зачараванае кола* (рускае *заколдованный круг*), *небяспечная гульня* (рускае *опасная игра*). Да калькавання звяртаюцца ў тых выпадках, калі пераклад іншамоўнага слова або выразу немагчымы, а запазычванне яго па тых ці іншых прычынах непажаданае. Побач са словаўтварэннем па ўласных мадэлях і запазычваннем калькаванне з'яўляецца адным з важнейшых сродкаў узбагачэння лексічнага складу мовы (гл. **Калькі**).

*Літ.:* Крукоўскі М. І. Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову. Мн., 1958; Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мн., 1980.

*А. М. Булыка.*

## ЗАТАЎКАНЮК МІКАЛАШ

Чэшскі мовавед-славіст Затаўканюк (Zatovkaňuk) Мікалаш нарадзіўся 21 верасня 1919 г. ў в. Палонка Луцкага раёна Валынскай вобласці (Украіна). Доктар філасофіі (1952), кандыдат філалагічных навук (1966), дацэнт (1962). Скончыў Тбіліскі універсітэт, у 1947—49 гг., пасля рээміграцыі, вывучаў славістыку ў Карлавым універсітэце. Працаваў выкладчыкам гімназіі, з 1948 г.— малодшым навуковым супрацоўнікам, а з 1962 г. дацэнтам філасофскага факультэта Пражскага універсітэта. Выкладаў курс «Уводзіны ў беларускую мову» для студэнтаў філасофскага факультэта Карлава універсітэта. Напісаў каля 200 навуковых прац, з іх каля 30 па беларусістыцы. Займаецца параўнальным вывучэннем рускай, беларускай і ўкраінскай моў, а таксама іх узаемадачыненнямі з заходнеславянскімі мовамі, тыпалогіяй блізкародных моў, псіхалінгвістыкай і даследаваннем з'яў інтэрферэнцыі. Аўтар навуковых прац «Аддзел украіністыкі і беларусістыкі на філасофскім факультэце Карлава універсітэта ў Празе» [Навуковы зборнік Музея ўкраінскай культуры ў Свідніку (Прэшаў). 1969. 4(1)], «Усходнеславянскія традыцыі і беларусістыка ў Пражскім універсітэце» [Ніва (Беласток). 1970. № 5], «Усходнеславянская славістыка ў Чэхаславакіі» [ Slavia Orientalis. 1971. 20(2)], «Пра лексічныя кантакты беларускай і польскай моў (з пункту гледжання моўнай інтэрферэнцыі)» [Ceskoslovenská rusistika. 1973. (18(3)]. Супастаўляльныя, тыпалагічныя і кантактныя падыходы адлюстраваны ў манаграфіях «Неасабовыя іменныя выказнікі і роднасныя формы, у прыватнасці ў рускай мове» (1965) і «Словазмяненне назоўнікаў ва ўсходнеславянскіх мовах» (1975).

У працы «Словазмяненне...» даследуюцца асаблівасці функцыяніравання марфалагічных моўных сродкаў назоўнікаў. Асаблівая ўвага надаецца варыянтным і дублетным формам, склонаваму сінкрэтызму і дыскрэтызму. Аўтар паказаў, што ўсходнеславянскія мовы зберагаюць агульнасць спадчыны, паралельна развіваючы многія з'явы ў галіне словазмянення назоўнікаў. Разыходжанні паміж гэтымі мовамі тлумачацца ўплывамі лінгвістычных і экстралінгвістычных фактараў. Галоўным лінгвістычным фактарам з'яўляецца тэндэнцыя да уніфікацыі і дыферэнцыяцыі форм. Разыходжанні паміж трыма

мовамі, выкліканыя экстралінгвістычнымі фактарамі, з'яўляюцца вынікам неаднолькавых шляхоў развіцця літаратурных моў, што ў сваю чаргу звязана з неаднолькавым характарам адносін паміж дыялектнымі асновамі і літаратурнымі мовамі, паміж вуснай і пісьмовай мовай і з неаднолькавымі адносінамі да кантактуючых моў. Як заўважыў даследчык, у адзіночным ліку ўсходнеславянскія мовы супадаюць у 15 тыпах формаўтварэння назоўнікаў, у 11 тыпах наглядаецца супадзенне паміж мовамі. З 9 тыпаў формаўтварэння ў множным ліку ўсходнеславянскія мовы супадаюць у 4 тыпах.

Мэтанакіравана і сістэматычна М. Затаўканюк праводзіць даследаванні ў галіне беларусістыкі ў славістычным кантэксце. У шэрагу артыкулаў ён характарызуе беларускую мову з мікратыпалагічнага пункту погляду [Slavia. 1968. 37(2)], яе спецыфіку сярод усходнеславянскіх моў (Acta Universitatis Carolinae. 1969. Philologica. T. 4—5. Slavica Pragencia 11). У параўнанні з рускай і украінскай мовамі ён аналізуе ў сучаснай беларускай мове і яе гаворках марфалагічныя, сінтаксічныя, лексічныя з'явы: артыкулы «Процiпастаўленне форм *-а/-у* роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду ва ўкраінскай і беларускай мовах (на ўсходнеславянскім фоне)» [Slavia. 1971. 40(1)], «Да характарыстыкі субстантыўнай парадыгматыкі (украінскі і беларускі вінавальны склон на *-е/-а*» (Acta Universitatis Carolinae. 1972. T. 2/4. Slavica Pragensia. 14), «Трылатэральнае супастаўляльнае вывучэнне назоўнікаў (на матэрыяле ўсходнеславянскіх моў)» [Българска русистика. 1978. 5(1)] і інш.

У рэцэнзіях і аглядах М. Затаўканюк знаёміць вучоных іншых краін з дасягненнямі сучаснай беларусістыкі (у часопісах «Slavia», «Československá rusistika», «Slavia Orientalis», «Българска русистика»). Аўтар артыкулаў «Беларуская лексікалогія за пяцігоддзе 1965—1970» [Slavia. 1972. 41(3)], «Беларуская лексікаграфія ў 1971—1980 гадах» (тамсама. 1981. 50), «Над старонкамі дзесяці штогоднікаў «Беларуская лінгвістыка» [Československá rusistika. 1979. 24(1)].

*Тв.:* К сопоставительной характеристике прикомпаративных отношений (на материале восточнославянских языков) // Slavia. 1983. 52(3—4); К сопоставительной характеристике суперлатива (на материале восточнославянских языков) // Bulletin Ruského jazyka a Literatury 1985. 26; Otázka shod a rozdílů při konfrontaci blízce příbuzných jazyků // Slavia. 1986. 55(2); К сопоставительной характеристике притяжательных прилагательных // Тамсама. 1988. 57(4); О грамматических функциях возвратных глаголов в восточнославянских языках // Slavica Slowaca. 1988. 23(3).

*І. І. Лучыц-Федарэц.*

## ЗАХОДНЕПАЛЕСКІЯ ГАВОРКІ

Заходнепалескія (брэсцка-пінскія, загародскія) гаворкі — дыялектная група, якая лакалізуецца ў Заходнім (Брэсцка-Пінскім) Палессі. Арэал іх пашырэння на поўначы і ўсходзе абмяжоўваецца лініяй: на поўдзень ад Шарашова, Пружанаў, Бярозы, на поўнач ад Белаазёрска, на поўдзень ад Целяхан, на паўночны ўсход ад Лагішына і Пагоста Загародскага, на паўднёвы захад ад Лунінца, на ўсход ад Дубая, на паўночны ўсход ад Століна і Стругі.

Галоўныя іх асаблівасці: оканне (*молоко́, голова́, здоро́вый*), вымаўленне на месцы ѣ пад націскам галоснага [і] (*б'ілый, с'іно, на ноз'і, л'іс*), цвёрдасць губных і пярэднеязычных перад этымалагічнымі *е, і* (*вэ́чор, бэ́рог, дэн', тэ́плый, нысэ́, вызэ́, мыска, быты, ходы́ты, зыма́*), цвёрдасць заднеязычных у спалучэннях *гы, кы, хы* (*но́гы, кы́нуты, хы́трый*), наяўнасць мяккіх этымалагічных шыпячых (*нож'і, ш'апка, ж'аба*), *р'* (*р'ічка, гор'іх, пор'адок*), *ц'* (*жнэц', хло́пэц', на конц'і*), а таксама губна-зубны або губна-губны [в] на месцы [ў] у літаратурнай мове (*пра́вда, сказа́в*), адсутнасць цекання (*т'ін', т'іло, т'агну́ты*), дзекання (*д'ід, д'івчына, д'а́куваты*), канчатак *-ый* у назоўным склоне прыметнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку (*но́вый, сы́ный, молоды́й, круты́й*), указальныя займеннікі *гэ́той, гэ́тый, гэ́та, гэ́тэ, гэ́ты, гэ́то*, займеннікавыя формы *мн'і, йе́ю*, пашырэнне лексем: *клу́ня* 'гумно', *прач* 'пранік', *пацыя́т* 'франтон', *шіпка* 'павець', *бывк* 'бiч', *шы́тык* 'папруга', *судосы́ты* 'сустрэць', *волочы́ты* 'баранаваць', *лата́ты* 'лапіць', *бы́цю-бы́цю* 'падзыўныя для кароў', *путь-путь* 'падзыўныя для курэй'.

У заходнепалескіх гаворках вылучаюцца 4 дыялектныя тыпы: сярэднезагародскі, паўднёвазагародскі, паўночназагародскі і тараканскі. Яны адрозніваюцца паміж сабой рознай рэалізацыяй галосных *о* (новыя закрытыя склады), *'а, ę, е, ь* у націскной пазіцыі: *о* > [і] у гаворках сярэднезагародскіх, паўднёвазагародскіх і тараканскіх (*в'ін, в'із, б'іл'ш, сил', нис, к'ін'*); *о* > [у] — у паўночназагародскіх (*вун, вуз, бул'ш, сул', нус, кун'*); *'а, ę* > ['а] — у сярэдне- і паўночназагародскіх (*вз'ав, с'аду, гл'ану, ш'апка, з'ат'*); *'а, ę* > ['е] — у паўднёвазагародскіх і тараканскіх (*вз'ев, с'е́ду, гл'е́ну, ш'е́пка, з'ет'*); *'е, ь* > [е] — у сярэдне-, паўднёва- і паўночназагародскіх (*дэн', вызэ́, бэ́рог, мэд, вычэ́ра, цэ́рква*); *е, ь* > [а] — тараканскіх (*дан', выза́, бару́г, мад, выча́ра, ца́рква*). У тараканскіх гаворках Драгічынскага раёна адзначаны наступныя рэгіянальныя лексемы і словаформы: *бруслэ́нэ* 'брусніцы', *бу́кач* 'птушка бугай', *зало́га* 'каўнер кажуха', *к'еп* 'кепка', *кута́с'а* 'стужка', *нару́ччэ* 'абярэмак', *па́смо* 'пластаваны абярэмак сена', *пасмова́тэ* 'пластаваць граблямі сена', *п'ілка* 'кош, плецены з лазы і саломы', *хварту́х* 'ніжняя частка, нахіл у франтоне', *ц'іха* 'радно', *ш'е́нка* 'невялікі мяшок'.

Акрамя дыялектных тыпаў, у арэале заходнепалескіх гаворак вылучаюцца дыялектныя зоны і мікразоны, а таксама перыферыйныя групы, пераходныя да суседніх гаворак — паўночнабрэсцкіх і ўсходнепалескіх. Дыялектныя з о н ы заходнепалескага арэала — заходнезагародская і ўсходнезагародская. Мяжа паміж імі праходзіць па заходняй частцы Іванаўскага раёна. Гаворкам заходнезагародскай дыялектнай зоны характэрны наступныя рысы: часціцы *-с'а, -с'* (*найі́вс'а, найі́вс', вмы́лас'а, вмы́лас', платы́лос'*), суфікс *-с'к-* (*ба́т'ковс'кый, с'іл'с'кый, Пын'с'к*), этымалагічны *ц'* у ненаціскных складах і на канцы слоў пераважна захаваў мяккасць (*гу́лыц'а, рукавы́ц'а, конэ́ц', хло́пэц'*), формы прыметнікаў тыпу *мало́йе, старо́йе, золото́йе*, лічэбнікі *с'ім, шыст'*. Гаворкам усходнезагародскай зоны характэрна: часціцы *-са, -со* (*найі́вса, вмы́ласа, платы́лосо*), суфікс *-ск-* (*ба́т'ковскый, с'іл'скый, Пынск*), этымалагічны *ц'* у ненаціскных складах і на канцы слоў пераважна ацвярдзеў (*гу́лыца, рукавы́ца, конэ́ц, хло́пэц*), формы прыметнікаў тыпу *малэ́йе, старэ́йе, золотэ́йе*, лічэбнікі *сэм, шэст'*.

Дыялектныя м і к р а з о н ы заходнепалескага арэала: брэсцка-кобрынская, камянецка-высокаўская, або паўночна-заходняя, маларыцка-дамачоўская, або паўднёва-заходняя, драгічынска-янаўская, або цэнтральназагародская, заходнястолінская, або паўднёва-ўсходняя, лагішынская, або паўночна-ўсходняя, лагішынска-заходнястолінская, ра́дастаўская, заходнія ўскраіны Брэстчыны, паўднёвыя ўскраіны Загароддзя, раён горада Кобрына, раён горада Пінска.

Да спецыфічных рыс п е р ы ф е р ы й н ы х заходнепалескіх гаворак, якія адрозніваюць гэтыя гаворкі ад асноўнага заходнепалескага дыялектнага масіву, адносяцца наступныя. У ма́лецкіх гаворках (паўднёвы захад Бярозаўскага раёна) на месцы націскнога ѣ выступае [і͡е], часам [ê]: *б'і͡елы, б'е́лы, с'і͡ено, с'е̂но;* на месцы націскнога *о* ў новых закрытых складах — [у͡о], часам [ô]: *ву͡оз, бу͡ол'ш, ку͡он', во̂з, бо̂л'ш, ко̂н'*. У паўночналагішынскіх гаворках на месцы націскнога ѣ вымаўляецца [ê]: *б'е̂лы, с'е̂но;* на месцы націскнога *о* ў новых закрытых складах — [ô]: *во̂з, бо̂л'ш, ко̂н'*; звужаецца этымалагічны *ы*: *дим, син, риба*. У паўднёвацеляханскіх гаворках на месцы націскнога ѣ вымаўляецца [ê]: *б'е̂лы, с'е̂но*; на месцы націскнога [о] ў новых закрытых складах — [э]: *вэн, вэз, бэл'ш, сэл', нэс, кэн'*; звужаецца этымалагічны *ы* пасля губных зычных (*висо́ко*), губныя і пярэднеязычныя перад этымалагічным *і* вымаўляюцца мякка

(*м'іска, б'іт'і, ход'іт'і, з'імá*). У сярэднепагарынскіх гаворках (традыцыйная гаворка горада Століна і навакольных вёсак) на месцы націскнога ѣ вымаўляецца [ê] або [і]: *б'ѐлы, с'ѐно, б'ілы, с'іно;* на месцы націскнога *о* ў новых закрытых складах — [ô] або [у]: *вôз, кôн', вуз, кун'*; звужаецца этымалагічны *ы* пасля губных зычных (*високо*); пярэднеязычныя перад этымалагічным *і* вымаўляюцца мякка (*ход'іт'і, з'імá*).

Некаторыя асаблівасці, тыповыя для большасці заходнепалескіх гаворак або асобных іх груп, характэрны дыялектным утварэнням, якія прымыкаюць да заходнепалескага дыялектнага масіву: верхнясельдскім гаворкам (цвёрдасць зычных *б, в, м, п, д, т, з, с, н* перад *е*; дыфтонг *уо* на месцы націскнога *о* ў новых закрытых складах; дыфтонг *іе* на месцы націскнога ѣ), лунінскім (пераход *о*>*ы* ў новых закрытых складах пад націскам; ѣ>*і* ў націскным становішчы; адсутнасць цекання і дзекання), беражноўскім (адсутнасць цекання і дзекання).

На фарміраванне дыялектнага ландшафту Заходняга Палесся аказалі ўплыў розныя фактары. На думку некаторых даследчыкаў, Заходняе Палессе з'яўлялася часткай славянскай прарадзімы або адной з зон старажытнай міграцыі праславян. Старажытнае славянскае насельніцтва гэтай вобласці было, відаць, цясней звязана з паўднёва-заходнімі славянскімі групамі, чым з усходнімі, паколькі старадаўняя мяжа ў зоне рассялення праславян праходзіла па рацэ Гарынь. Пазней гэта мяжа перамясцілася на Заходні Буг. У 2-й палове 1-га тысячагоддзя н. э. археалагічныя комплексы Брэсцка-Пінскага і Валынскага Палесся не былі ні тыпова дрыгавіцкімі, ні тыпова валынянскімі, ні тыпова драўлянскімі. Не выключана, што тут знаходзілася асобнае ўсходнеславянскае племя. Відаць, на рубяжы 7—8 ст. асноўныя групы мясцовага насельніцтва Заходняга Палесся ўвайшлі ў валынянскі саюз. З канца 10 ст. ўзмацняецца дрыгавіцкі ўплыў, асабліва ў паўночна-заходняй частцы рэгіёна. З 10 ст. мелі месца перасяленні асобных груп ятвягаў з паўночнага захаду. Відаць, быў прыліў насельніцтва з Валыні ў 13—15 ст.

Сучасныя дыялектныя тыпы заходнепалескіх гаворак, магчыма, адлюстроўваюць пэўныя моўныя асаблівасці старых міграцыйных рухаў. Наклалі адбітак на дыялектны ландшафт Заходняга Палесся і пазнейшыя дзяржаўныя і адміністрацыйныя межы. Так, відаць не выпадкова мяжа паміж заходне- і ўсходнезагародскай дыялектнымі зонамі супадае з мяжой паміж сярэдневяковымі Берасцейскай і Пінскай землямі, мяжа рáдастаўскай мікразоны — з участкам літоўска-польскай граніцы ў 14—18 ст., мяжа сярэднепагарынскіх гаворак — з мяжой Дубровіцкага княства ў 12—15 ст. (гл. карту **«Заходнепалескія гаворкі»** на с. 57).

*Літ.:* Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963; Полесье. М., 1968; Лексика Полесья. М., 1968; Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мн., 1971; Вайтовіч Н. Т. Ненаціскны вакалізм народных гаворак Беларусі. Мн., 1968; Клімчук Ф. Д. Гаворкі Заходняга Палесся. Мн., 1983; Яго ж. Неривяневервиане // Славяне и их соседи. М., 1988; Седов В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982. *Ф. Д. Клімчук.*

## ЗАХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ МОВЫ

Заходнеславянскія мовы [польская з кашубскім і славінскім дыялектамі, мёртвая палабская, сербалужыцкія (верхня- і ніжнялужыцкая), чэшская і славацкая] — адна з трох груп, на якія традыцыйна падзяляюцца славянскія мовы. Носьбіты гэтых моў займаюць цяпер пераважна тэрыторыю Польшчы, Чэхіі і Славакіі. На заходнеславянскіх мовах гаворыць больш за 50 млн. чалавек: на польскай — каля 36 млн. у Польшчы і прыблізна 2 млн. за яе межамі (на тэрыторыі Беларусі, паводле перапісу 1989 г. жыве 418 тыс. палякаў, але роднай мовай польскую лічаць толькі 11,3 % ад гэтай колькасці), каля 10 млн. чалавек — на чэшскай і каля 5 млн.— на славацкай. Сербалужыцкімі мовамі карыстаецца самы малы славянскі народ — лужыцкія сербы (каля 100 тыс. чалавек), якія жывуць у Германіі на ўсходзе 2 акруг: Дрэздэна і Котбуса. Усе сербалужычане двухмоўныя; асноўнай мовай для іх з'яўляецца нямецкая. На палабскай (цяпер мёртвай) мове гаварылі да пачатку 18 ст. нашчадкі славянскага племені драўлян, якія жылі на левым беразе р. Лаба (ням. Эльба). Палабская мова зафіксавана ў выглядзе невялічкіх слоўнікаў, якія былі зроблены ў 17 і 18 ст. нямецкай графікай (сапраўднага пісьменства ў палабаў не было), а таксама асобных слоў у нямецкіх дакументах і тапонімаў.

Заходнеславянскія мовы сфарміраваліся на базе заходняга дыялекту праславянскай мовы, паўночны паддыялект якога,— праляхіцкі — лёг у аснову польскай, лужыцкай і палабскай моў, а паўднёвы — у аснову чэшскай і славацкай. Асобныя характэрныя рысы заходнеславянскіх моў складаюцца пасля 4—5 ст. н. э., калі пачалася актыўная каланізацыя славянамі заходніх зямель. Утварэнне славянскіх дзяржаў, напрыклад дзяржавы Само ў 7 ст. на тэрыторыі сучасных Чэхіі, Маравіі і Славакіі, княства Вялікая Маравія ў 9 ст., садзейнічала развіццю заходнеславянскіх моў.

Заходнеславянскія мовы маюць некаторыя істотныя асаблівасці, на падставе якіх яны аб'ядноўваюцца ў адну групу: фіксаваны націск, г. зн. націск на адным і тым складзе (за выключэннем кашубскага дыялекту, дзе ён разнамесны) — у польскай мове на другім ад канца, у чэшскай, славацкай і серба-лужыцкіх — на першым складзе; група праславянскіх дыфтангічных спалучэнняў *er, el* паміж зычнымі, якая ўмоўна абазначаецца **tert, *telt*, ператварылася ў *tret, tlet*, прычым *r* перад галоснымі пярэдняга раду змяніўся ў шыпячы, акрамя славацкай і палабскай моў: польск. *brzeg*, чэш. *břeh* 'бераг', польск. *mleko*, чэш. *mleko* 'малако'; у пачатку слова перад старым *ě* захаваліся спалучэнні *kv, gv*: польск. *kwiat, gwiazda*, чэш. *kwět, hvězda* 'кветка', 'зорка' [параўнаем рус. *цвет(ок), звезда*]; старажытныя спалучэнні *tj, dj* змяніліся ў *c, dz, z:* чэш. *svíce*, ніжнялуж. *swěca* 'свяча', славац. *medza*, верхнялуж. *mjaza* 'мяжа'; захаваліся спалучэнні *tl, dl*: чэш. *křídlo* 'крыло', польск. *mydło* 'мыла', верхнялуж., ніжнялуж. *pletl* 'плёў'; мяккі губны зычны не развіў пры сабе *l* у непачатковым складзе: польск. *ziemia*, чэш. *země* 'зямля'.

Чэшская і славацкая мовы займаюць у заходнеславянскай групе асобнае месца, паколькі паводле некаторых прыкмет яны набліжаюцца да паўднёваславянскіх моў, і праславянскія спалучэнні *tart, talt* далі ў іх *trat, tlat* (чэш. *hlava, vrana*), а ў іншых заходнеславянскіх — *trot, tlot* (польск. *głowa, wrona*). Польская мова вылучаецца захаваннем насавых галосных *ą, ę*.

Першыя помнікі пісьменства на заходнеславянскіх мовах вядомыя з 13—14 ст. Яшчэ раней, у 10—11 ст., асобныя чэшскія словы сустракаюцца ў помніках, напісаных на царкоўнаславянскай, нямецкай або лацінскай мовах, а з 12 ст. да нас дайшлі некаторыя польскія словы ў лацінскіх дакулітаратурная мова, якая ў 14—16 ст. дасягнула высокага ўзроўню. Адзін з яе першых кадыфікатараў Ян Гус (1373—1415) ачысціў мову ад архаізмаў і шматлікіх запазычанняў, рэфармаваў графіку, увёў надрадковыя знакі. Пачатак фарміравання польскай літаратурнай мовы адносіцца да 14 ст. У гэты час яна знаходзілася пад моцным уплывам развітой старажытначэшскай мовы. У 16 ст., у перыяд росквіту польскай мовы, адбываецца станаўленне яе фанетычных і граматычных норм. Вялікае ўздзеянне на развіццё роднай мовы аказаў польскі паэт Я. Каханоўскі (1530—84). З 17 ст. з прычыны розных гістарычных абставін пачынаецца заняпад старэйшых заходнеславянскіх літаратурных моў. У Чэхіі пасля страты ёю дзяржаўнай незалежнасці ў 1620 г. чэшская мова выцясняецца нямецкай, а ў Польшчы ў перыяд культурнага

і эканамічнага заняпаду 17 ст. літаратурная мова значна абядняецца і ў шляхецкім асяроддзі выцясняецца французскай. Адраджэнне чэшскай і польскай літаратурнай моў пачынаецца ў 18 ст. Чэшская мова ў якасці літаратурнай да 18 ст. ўжывалася і ў славакаў. У канцы 18 ст. была зроблена першая спроба зрабіць славацкую мову літаратурнай, але яна не была падтрымана. Фарміраванне сучаснай літаратурнай мовы (з некаторымі пазнейшымі зменамі) адбылося ў другой палове 19 ст. Выпрацоўка яе норм звязана з працамі ідэолага нацыянальна-вызваленчага руху і паэта-рамантыка Л. Шпура і вучонага М. Гаталы.

У лужычан пісьменства ўзнікла ў 16 ст. і да 19 ст. мела пераважна рэлігійны характар. Сербалужыцкая літаратурная мова існуе ў двух варыянтах — верхня- і ніжнялужыцкім. Першыя граматыкі лужыцкіх моў і першы лаціна-сербалужыцкі слоўнік былі створаны ў 18 ст. У 19 ст. ў лужычан, асабліва ў верхніх, павышаецца цікавасць да мовы, гісторыі, фальклору. Паэт І. Зейлер (1804—72) складае граматыку верхнялужыцкай мовы, а вучоныя Я. Смолер (1817—87) збірае і выдае фальклор, засноўвае культурна-асветную арганізацыю «Маціца сербская». Буйны лужыцкі мовазнавец А. Мука (1854—1932) у пачатку 20 ст. выдаў граматыку і трохтомны слоўнік ніжнялужыцкай мовы. Пасля набыцця ў 1947 г. культурнай аўтаноміі ў межах ГДР узніклі ўмовы свабоднага развіцця лужыцкіх моў. На лужыцкіх мовах друкуюцца кнігі, перыядычныя выданні. У Лейпцыгскім універсітэце працуе інстытут сарабістыкі (ад *сорбы* — нямецкай назвы сербалужычан).

З заходнеславянскімі мовамі беларускую мову яднаюць некаторыя агульныя рысы, якія з'явіліся, відаць, вынікам агульных тыпалагічных працэсаў, што адбываліся ў асобных славянскіх мовах прыблізна пасля 12 ст.: дзеканне, цеканне, ацвярдзенне *р*, «шапялявае» вымаўленне свісцячых. У лексіцы вельмі цікавыя супадзенні, якія адносяцца яшчэ да праславянскага перыяду, г. зн. з'яўляюцца праславянскімі дыялектызмамі: бел. *глыкаць, глыка́ць*, чэш. дыялектызм *glgat'* 'прагна піць', бел. *бросня* 'цвіль на вадкасцях', польск. дыялектызм *brośń* 'цвіль' і інш. Далей, на працягу свайго развіцця беларуская мова ў пэўныя гістарычныя перыяды папаўнялася лексічнымі, граматычнымі і словаўтваральнымі сродкамі з польскай мовы. Да паланізмаў адносяцца абстрактныя назоўнікі з суфіксам *-унак (кірунак, малюнак)*, назоўнікі жаночага роду з фіналем *-ня (кнігарня, кавярня)*, паасобныя прыметнікі з суфіксам *-н-* тыпу *акадэмічны, дэмакратычны* і г. д. У беларускую лексіку апрача польскіх слоў *(жывёла)*, праз польскую мову прыйшлі многія запазычанні з іншых славянскіх і заходнеславянскіх моў: *бавоўна*<польск. *bawełna*<чэш. *bavlna*; *асвета*<польск. *oświata*<чэш. *osvěta; абцугі*<польск. *obcęgi*<ням. *Hebzange*; *бульба*<польск. *bulba*<ням. *Bolle* 'клубень, цыбуліна' або лац. *bulbus*. Нязначным быў непасрэдны ўплыў чэшскай мовы. І хоць у перыяд гусіцкага руху на Беларусь пранікаюць чэшскія кнігі, а ў 1413 г. Літву і Вільню наведаў паплечнік Гуса Іеранім Пражскі, чэшскія словы, якія сустракаюцца ў перакладах апокрыфаў на беларускую мову і ў перакладзе «Бібліі» Ф. Скарыны (*врабець* 'верабей', *снадно* 'лёгка', *жалар* 'турма'), не замацаваліся ў беларускай мове.

*Літ.:* Селищев А. М. Славянское языкознание. Т. 1. Западнославянские языки. М., 1941; Бернштейн С. Б. Очерк сравнительной грамматики славянских языков. Т. 1. М., 1961; Его ж. Очерк сравнительной грамматики славянских языков. Т. 2. Чередования. Именные основы. М., 1974; Вступ до порівняльно-історичного вивчення слов'янських мов. Київ, 1966; Stieber Z. Zarys gramatyki porównawczej języków słowiańskich. Cz. 1—2. Warszawa, 1969—73; Славянские языки. М., 1977; Бошкович Р. Основы сравнительной грамматики славянских языков. Фонетика и словообразование. М., 1984; Супрун А. Е. Введение в славянскую филологию. 2 изд. Мн., 1989.

*Р. М. Малько.*

## ЗВАРОТАК

Зваротак найчасцей ужываецца ў размове дзеля таго, каб прыцягнуць увагу асобы, ад якой хочуць нешта пачуць ці імкнуцца заахвоціць яе да пэўнага дзеяння: *«Што здарылася, Іване?» — спагадліва запытаў Лабановіч* (Я. Колас); *Ты, сыночак, будзеш з дзедам. Хату пасцеражэш* (І. Мележ). Звяртацца можна да групы асоб: *Вы на смерць ішлі без страху, беларускія жанчыны, у імя Радзімы светлай, міру, шчасця і любві!* (А. Звонак), да прадметаў і з'яў, нават да абстрактных паняццяў: *Лес мой, цуд мой... Я перадам нашу дружбу дачушцы і сыну, каб іх рукі ніколі галін не ламалі тваіх* (П. Панчанка); *Будзь жа, век малады, поўны светлымі днямі* (М. Багдановіч). Такім чынам, зваротак — гэта слова або спалучэнне слоў, што абазначаюць асобу ці прадмет, да якога непасрэдна звернута выказванне.

Звароткі належаць да эмацыянальна-валявой сферы маўлення, якое ажыццяўляецца ў вуснай і пісьмовай формах. Пры непасрэдных моўных зносінах звароткі, незалежна ад структуры і месца ў выказванні, заўсёды інтанацыйна выдзяляюцца. Дасягаецца гэта невялікімі паўзамі і павышэннем ці паніжэннем голасу, што абумоўліваецца зместам і экспрэсіяй выказвання. У кантэксце *Гэй, паромшчык, давай пераправу!* (М. Лынькоў) зваротак вымаўляецца падкрэслена гучна, а ў паэтычных радках П. Глебкі *Давай, зямляк, мяшкі паложым, спачнём ля бацькаўскіх варот* — прыглушана-разважліва.

Уваходзячы ў структуру сказа, зваротак застаецца граматычна незалежным. Гэта, аднак, не азначае, што ён не мае сэнсавай сувязі з членамі сказа, якая найперш праяўляецца ў раскрыцці рэальнага зместу асабовых займеннікаў: *Беларусь, на ўсёй на вялікай планеце свой пачэсны пасад ты даўно заняла* (П. Броўка); *Эх, ты, жыццё, жыццё людское! Няма табе, няма спакою* (Я. Колас). Выразная суадносная сувязь назіраецца паміж звароткам і дзеясловам-выказнікам у форме загаднага ладу: *Гані мяне, доля, ад перакатных радасцей капрызнай славы да зямнога, ціхага шчасця вялікай, патрэбнай працы!* (Я. Брыль); *Углядайся, мой сыне, пільней углядайся ў святыя абрысы бацькоўскай зямлі* (Н. Гілевіч). Параўнайце: *Углядайцеся, мае сыны, пільней углядайцеся...* Захоўваючы больш ці менш выразную сэнсавую суадноснасць з членамі сказа, зваротак усё-такі не звязваецца з імі ні падпарадкавальнай, ні спалучальнай сувяззю. І гэта дае магчымасць «выносіць» яго і за межы сказа: *Хмары залатыя! Вы — прастору дзеці, ходзіце вы вечна па ўсім белым свеце* (Я. Колас).

Называючы адрасата маўлення, зваротак выконвае намінатыўную функцыю. Яна часта спалучаецца з ацэначна-характарыстычнай. Добра выяўляюць адносіны субяседнікаў звароткі, выражаныя назоўнікамі з ацэначнымі суфіксамі, як, напрыклад, у наступным кантэксце: *«А як жа ты жывеш, Арсенька?» — спытала Галя, і ў яе голасе, і ў гэтым змяншальна-ласкальным звароце «Арсенька» мне пачуліся дабрыня і спагаднасць да людзей, адвеку ўласцівыя працавітай беларускай сялянцы...* (А. Марціновіч). Эмацыянальныя адносіны да адрасата маўлення выразна праяўляюцца тады, калі ў ролі звароткa выступаюць назоўнікі характарыстычнага зместу: *«Вельмі ты знаеш етыя законы, грамацей!» — стаяў, пырскаў слінаю стары* (І. Мележ); *Чаго табе тут трэба, пустацікавец? Якое ты маеш права парушаць спакой гэтае святыні?* (Я. Колас). Ацэначны характар звычайна набываюць звароткі, выражаныя назоўнікамі пераноснага значэння: *Ты ляці, ляці, саколе, здабываць радзіме волю...* (К. Буйло); *«Ох, галубок мой! — бабка Параска выцерла слёзы.— Шкада мне вас»* (Я. Колас); *«Раздайся, машкара!» — загадаў Ларывон, рассоўваючы ў бакі хлопцаў* (І. Мележ). Дадатковыя ацэнні значэння, якія наслойваюцца на асноўную функцыю звароткa, ствараюцца і тады, калі зваротак мае ацэначныя азначэнні: *На карце вялікага свету цябе пазнаём здаля, нават з другой планеты, матчына наша зям-*

ля (В. Вітка); *«Ну, што ж? Бывайце, мілыя, дарагія сябры!» — у мыслях прамовіў Андрэй і лугам пашыбаваў дахаты* (Я. Колас). Эмацыянальную выразнасць выказвання ўзмацняюць розныя паўторы ў звароту: *Край мой беларускі, край! Дай ты мне прайсціся, дай, па тваіх прасторах, па шляхах бясконцых, уначы — пры зорах, раніцай — пры сонцы* (Н. Гілевіч); *Васілёчак, каласочак, сынку мой... Куды ж цябе, за што цябе, за якія грахі, дзяцінаčку маю* (І. Мележ).

Тыповая форма выражэння звароткa — назоўны склон назоўніка ці іншай часціны мовы, якая ўжываецца ў значэнні назоўніка (субстантывуецца): *Не будзь, калега, недарэкаю* (А. Вярцінскі); *Жанатыя і халастыя, успамінайце кожны раз, што ўсе жанкі крыху святыя, што маці нарадзіла нас* (С. Грахоўскі). У гутарковым і мастацкім стылях беларускай літаратурнай мовы звароткі выражаюцца і былой клічнай формай назоўніка: *Пакажы, дружа, як лепей зрабіць; Сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць,— не скуеш толькі дум ланцугамі* (Я. Купала). У аратарскіх выступленнях, паперах дзелавога характару (прывітаннях. аб'явах адозвах, лозунгах) звароткі звычайна выражаюцца назоўнікамі ў форме назоўнага склону множнага ліку: *Дубадзел уціхаміраваў: «Грамадзяне куранёўцы! Грамадзяне!»* (І. Мележ); *Таварышы! Давайце прыступім да справы, дзеля якой, уласна кажучы, мы і сабраліся тут* (Я. Колас).

У мастацкіх творах сустракаецца шмат развітых зваротkаў, у якіх асноўнае слова мае дапасаваныя ці недапасаваныя азначэнні, прыдаткі, дапаўненні, акалічнасці і нават дададныя сказы. У такіх зваротках выразна падкрэсліваюцца прыкметы, уласцівасці адрасата маўлення, асабліва тады, калі ён не асоба: *Залатая асенняя раніца! Харастввом ты на свеце адна* (У. Дубоўка); *Добры дзень, Беларусь, народная дзяржава, зямля руплівых рук, радзіма добрых спраў* (А. Звонак). Асаблівай характарыстычнасцю вызначаюцца перыфрастычныя звароткі. Яны выражаюцца семантычна непадзельнымі, апісальнымі (найчасцей — метафарычнымі або метанімічнымі) словазлучэннямі. Такі зваротак, побач са звычайным, ужывае Я. Колас у наступных вершаваных радках: *...Ні красак, ні зыкаў. Замерла прырода. Вясна маладая! Як мне цябе шкода! Ты прыйдзеш, я знаю, ўсё прыйдзе з табою, І блісне прырода красой маладою. Ка мне ж ты не прыйдзеш, вясна залатая! І жаль нейкі сэрца маё спавівае. Яшчэ адзін годзік пабег, пакаціўся. І з прошласцю моцна, навекі ён зліўся.* Паэт спачатку звяртаецца да самай прыгожай пары года — вясны. Потым яго думкі скіроўваюцца да маладосці, якая перыфрастычна называецца «вясной залатою». Такі зваротак заўважаем і ў наступных радках пра нашу беларускую бульбу: *Ні дождж, ні град цябе не песціць, надзейны хлеб маёй зямлі* (Р. Барадулін).

Нярэдка ўзнікаюць сітуацыі, калі той, хто гаворыць, не знаходзіць слова, каб звярнуцца да каго-небудзь. Тады дапамагаюць апісальныя звароты метанімічнага характару, напрыклад: *Гэй, каторы з голай спінай! Хадзем пад яблыню, казку раскажу* (У. Караткевіч). Такія звароткі амаль заўсёды маюць прастамоўны, фамільярны характар. Іх трэба пазбягаць у маўленні, як і звароткаў, выражаных займеннікамі 2-й асобы: *Гэй, ты! На гонары далёка не паедзеш! Садзіся. Давязу* (І. Шамякін). А. Вярцінскі ў вершы «Згубленае слова, ці Здарэнне ў аўтобусе» адлюстроўвае прывычную ў наш час сітуацыю, калі чалавек не ведае, як пачаць размову з незнаёмай асобай: *Я павінен звярнуцца да жанчыны. І не магу, не ведаю — як. «Дзяўчынай» яе не назавеш — яна ж не афіцыянтка. І яна ўжо не маладая. Звярнуцца: «Таварыш!» Але ж мы не на сходзе, а ў аўтобусе, і такі зварот гучаў бы занадта афіцыйна, калі не казённа.*

І зноў жа можа выручыць толькі зварот тыпу: «Прабачце», «Скажыце, калі ласка...», «Будзьце ласкавы...», якія дасць магчымасць тактоўна звярнуцца да незнаёмага чалавека.

Раней беларусы карысталіся ў размовах пры звароце да знаёмых і незнаёмых словамі *дзядзька, цётка: Цётка, гляньце ў акно...; Дзядзька, дзе тут Рыгорава хата?* Я. Купала ліст да Б. Тарашкевіча 4.XI.1913 г. пачаў так: *Дзядзька Тарас! Што чуваць у Вас з беларускай граматыкай?* Гэты зварот захаваўся і цяпер, асабліва ў вёсцы, так звяртаюцца дзеці і малодшыя да старэйшых у бытавых абставінах. А ў афіцыйнай сітуацыі звычайна называюць імя і імя па бацьку ці ўжываюць слова *таварыш* з указаннем пасады або прозвішча: *Таварыш дырэктар! Падпішыце заяву.* Апошнім часам усё часцей ужываюцца звароткі *спадар, спадарыня, грамада.* У ролі звароткa нярэдка выступаюць і словы, якія страцілі сваё канкрэтнае значэнне, найчасцей гэта *брат, браток, дзетка, дружа, даражэнькі, даражэнькая: Пачакай, брат, мяне; Памажы, дружа; Скажы, даражэнькі, ці далёка да вакзала.*

Зваротак трэба адрозніваць ад назоўнага ўяўлення, які заўсёды стаіць у пачатку сказа і толькі называе прадмет, з'яву, асобу, каб выклікаць у свядомасці таго, хто гаворыць, пэўнае ўяўленне, даць штуршок для ўспамінаў і разважанняў, напрыклад: *Канец... Як проста гэта слова. І мнагазначна, заўжды нова!* (Я. Колас). Зваротак адрозніваецца таксама ад вакатыўных сказаў, што афармляюцца як закончанае выказванне і вымаўляюцца з асобай інтанацыяй, якая адлюстроўвае радасць, жах, здзіўленне, дакор, абурэнне: *«Панас!» — вырваўся немы крык з грудзей старога...* (Я. Колас); *Задыхаючыся ад страху і бегу, маці з лямантам кінулася да сыноў: — «Сцяпанко!!! Яўхімко!... Божачко! Сцяпанко!!!»* (І. Мележ).

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986; Бурак Л. І. Сучасная беларуская мова. Сінтаксіс. Пунктуацыя. Мн., 1987; Яўневіч М. С., Сцяцко П. У. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы. Мн., 1987.

*Г. М. Малажай.*

## ЗВЯЗКА

Звязка — гэта службовае слова дзеяслоўнага паходжання для выражэння граматычных значэнняў часу і ладу састаўнога недзеяслоўнага выказніка.

Важнейшым кампанентам двухсастаўнага сказа, як вядома, з'яўляецца выказнік — граматычна залежны ад дзейніка галоўны член сказа, які абазначае дзеянне, стан або прыкмету прадмета, названага дзейнікам. Яго прэдыкатыўнасць выяўляецца ў часе і ладзе.

Гісторыя фарміравання і развіцця граматычнага ладу ў шэрагу моў, у тым ліку і ў беларускай, прывяла да складвання такога тыпу сказаў, у якіх выказнік стаў выражацца не дзеясловамі, а словамі іншых лексіка-граматычных класаў — назоўнікамі, прыметнікамі, лічэбнікамі, займеннікамі, прыслоўямі і г. д. Аднак словы гэтых часцін мовы ніяк не здольны былі выразіць граматычныя значэнні часу і ладу, абавязковыя для выказніка. Каб недзеяслоўны выказнік змог перадаць гэтыя граматычныя значэнні (інакш кажучы, каб мог атрымацца сказ як моўная адзінка), у мове з'явіліся дапаможныя сродкі — спецыялізаваныя дзеяслоўныя словы, якія поўнасцю ці часткова страцілі сваё лексічнае значэнне і сталі служыць толькі названай мэце.

Звязкі захоўваюць асноўныя формы, уласцівыя дзеяслову, і гэтым адрозніваюцца ад усіх астатніх службовых слоў, найважнейшай граматычнай прыметай якіх з'яўляецца нязменнасць. Наяўнасць формазмянення выклікана самой граматычнай прыродай, самім прызначэннем звязкі ў мове — быць сродкам выражэння дзеяслоўных катэгорый такога выказніка, які выражаны неспрагальным словам. Праз формы звязкі ажыццяўляецца і каардынацыя (узаемасувязь) дзейніка і выказніка ў двухсастаўным сказе.

У залежнасці ад ступені страты лексічнага значэння вылучаюцца тры тыпы звязак: абстрактныя, паўабстрактныя (паўзнамянальныя) і знамянальныя.

Абстрактная звязка ў беларускай мове адна — гэта слова *быць.*

Звязка *быць* адрозніваецца ад дзеяслова *быць* значэннем. Параўнайце: *«Няхай дзед Талаш будзе атаман наш!» — сказаў хтосьці нават у рыфму* (Я. Колас) — тут слова *будзе* страціла сваё лексічнае значэнне і выступае ў ролі звязкі, з'яўляючыся часткай састаўнога выказніка *будзе атаман.* У сказе *Сын хутка будзе дома* слова *будзе* — паўназначны дзеяслоў, які ў сказе з'яўляецца выказнікам.

Звязка *быць* мае формы цяперашняга, прошлага і будучага часу абвеснага ладу, форму загаднага і ўмоўнага ладу. Ад усіх асабовых форм цяперашняга часу ў мове засталася толькі былая форма 3-й асобы адзіночнага ліку *ёсць*. Гэта дазваляе сцвярджаць, што формы асобы звязка страціла поўнасцю. Да таго ж і гэта звязка ў мове, як правіла, апускаецца (і тады мы гаворым аб нулявой звязцы). І толькі ў навуковым стылі, а часам і ў публіцыстыцы звязка *ёсць* можа ўжывацца, напрыклад: *Забастоўка павінна паказаць, што рабочы клас ёсць сіла, з якою трэба лічыцца* (П. Пестрак). Не прапускаецца звязка *ёсць* і ў тым выпадку, калі дзейнік і выказнік лексічна супадаюць: *Адказнасць ёсць адказнасць* (В. Вітка); *Маці ёсць маці* (І. Шамякін). У формах прошлага часу абвеснага ладу *(быў, была, было, былі)*, умоўнага ладу *(быў бы, была б, было б, былі б)* і загаднага ладу *(будзь, будзьце)* звязка не прапускаецца: *Твой бацька быў герой* (Я. Брыль); *Не быў бы то ён франтавік* (Я. Колас); *Не будзь я Ігнат, калі кажу няпраўду* (М. Лынькоў).

Прыклады паказваюць, што звязка *быць*, захоўваючы формы часу і ладу, траціць значэнне трывання; звязцы *быць* не ўласціва значэнне стану; актыўна разбураецца такая важная дзеяслоўная прыкмета, як спражэнне (прапалі формы 1-й і 2-й асобы). Такім чынам, у сучаснай мове ўжо можна гаварыць аб раздзяленні слова *быць* на два амонімы — дзеяслоў *быць* і звязку *быць*.

Паўабстрактныя звязкі — гэта словы *стаць, станавіцца, лічыцца, здавацца, рабіцца, з'яўляцца, бываць, называцца* і падобныя. Гэтыя словы, ужываючыся як звязкі, у значнай ступені трацяць сваё лексічнае значэнне. Параўнайце: *Вучань стаў на сваё месца ў шарэнгу.— Вучань стаў выдатнікам; Па вашаму загаду з'явіўся* (К. Крапіва).— *Я не з'яўляюся непрацiўленцам злу* (К. Крапіва). Такія звязкі захоўваюць усе ўласцівыя дзеясловам формы і адрозніваюцца ад дзеясловаў толькі семантыкай.

Знамянальныя паўназначныя дзеясловы ў ролі звязак (т. зв. знамянальныя звязкі) — гэта формы дзеясловаў руху і стану: *хадзіць, стаяць, сядзець, ляжаць, ісці, вярнуцца, бегчы, жыць* і інш. У гэтых дзеясловах, ужытых у ролі звязак пры недзеяслоўным кампаненце састаўнога выказніка, асноўнае лексічнае значэнне захоўваецца: *Вася ў дальніх паяздах ездзіць праваднiком* (М. Ракітны). У гэтым сказе выказнік перадае інфармацыю не толькі пра тое, што Вася ездзіць, але і пра тое, што Вася — праваднік.

Такім чынам, паўабстрактныя і знамянальныя звязкі — паняцці не столькі марфалагічныя, колькі сінтаксічныя.

Не адносяцца да звязак дзеясловы *пачаць, пакінуць, перастаць, прыняцца* і падобныя, а таксама мадальныя дзеясловы *хацець, збірацца, жадаць, умець, меркаваць, думаць, спрабаваць, магчы, загадаць* і інш., якія ўжываюцца пры інфінітыве ў складзе састаўнога дзеяслоўнага выказніка, напрыклад: *Рыгор прысеў, разгарнуў кніжку і прыняўся чытаць* (Ц. Гартны); *Андрэй не ўмеў суцяшаць словамі* (А. Чарнышэвіч). Ужыванне такіх дзеясловаў пры інфінітыве не выклікае змен у іх лексічным значэнні.

Нельга лічыць звязкамі і параўнальныя часціцы *як, быццам, што* і інш., якія ўжываюцца ў складзе састаўнога іменнага выказніка, параўнайце: *Мае рукі як стальныя* (Я. Колас); *Вёска што мёртвая, ні з аднаго коміна дым* (М. Нікановіч); *Зоркі — як мільёны аганькоў*. Значэнне часціцы набывае і займеннік *гэта*, які ўжываецца ў складзе выказніка, не падмяняючы сабою звязкі, параўнайце: *Дзеці — гэта наша будучыня.*

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Беларуская граматыка. Ч. 1. 1985. С. 204; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. *П. П. Шуба.*

## ЗІМА МІЛАСЛАЎ

Чэшскі мовазнавец Міласлаў Зіма (Zima) нарадзіўся 3 студзеня 1920 г. ў Празе. Доктар славянскай філалогіі (1953). У 1950 г. скончыў Карлаў універсітэт. У 1950—54 гг. працаваў у выдавецтвах: Славянскім Чэхаславацка-Савецкага інстытута і Чэхаславацкай акадэміі навук. У 1954—61 гг.— у Інстытуце славяназнаўства Чэхаславацкай АН, у 1961—84 гг.— супрацоўнік Славянскай бібліятэкі ў Празе. Садзейнічаў беларускім даследчыкам (А. В. Мажэйку, Л. П. Мірачыцкаму) у выяўленні ў фондах гэтай бібліятэкі беларускіх архіўных крыніц. Пытанні транскрыпцыі, транслітарацыі, арфаграфіі, анамастыкі славянскіх моў (рускай, беларускай, польскай, балгарскай, славенскай) М. Зіма даследаваў у працах «Транслітарацыя, транскрыпцыя і іншыя віды перадачы» (Эксплiцытнае апісанне мовы і аўтаматычная апрацоўка тэкстаў. Прага, 1986), «Некаторыя прапановы па транслітарацыі алфавіта і іх тэарэтычная аснова» (Прага, 1963), нарысе «Прыметнікі «veliký» і «velký» ў некаторых геаграфічных назвах» [Zpravodaj místopisné komise (Веснік геаграфічнай камісіі). 16. 1975, № 1—2; 3, ч. 2. Тапанамастыка].

Значнае месца ў творчай біяграфіі аўтара займаюць пытанні беларускага мовазнаўства. У артыкуле «Умовы так званага пералівання імён у нацыянальныя формы паміж усходнеславянскімі мовамі» (Беларускае і славянскае мовазнаўства: Да 75-годдзя акадэміка К. К. Крапівы. Мн., 1972) даводзіцца, што «пераліванне» — гэта не механічны перанос імён з адной мовы ў другую, а натуральны працэс «урастання» іх у іншамоўнае асяроддзе, бо ні колькасць графічных знакаў, ні сістэма літарнага абазначэння гукаў не супадаюць нават у блізкіх паводле паходжання мовах. Таму адно і тое ж прозвішча ў розных мовах пішацца і гучыць па-рознаму: у беларускай Беладзед, ва ўкраінскай Білодід, у рускай Белодед. Артыкул «Нататка пра беларускую літаратурную мову» (Československá rusistika. 1980. № 2) М. Зіма прысвяціў 60-годдзю выдання першай «Беларускай граматыкі для школ» Б. А. Тарашкевіча, артыкул «Францішак Скарына і яго імя» (Бел. лінгвістыка. Мн., 1990. Вып. 38) — 500-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага першадрукара і асветніка.

З выданнямі беларускіх філолагаў М. Зіма знаёміць чэхаславацкіх чытачоў праз рэцэнзіі і рэфераты. У часопісе «Československá rusistika» (1957. № 2) ён рэцэнзуе нарыс І. Баса «Подпіс Паўлюка Багрыма», а ў часопісе «Zpravodaj místopisné komise» (1966. № 2) — «Слоўнік асабовых уласных імён» М. Р. Судніка. *М. Р. Суднік.*

## ЗЛУЧНІК

Злучнік — гэта службовае слова ці спалучэнне слоў, якое злучае члены сказа, часткі складанага сказа ці самастойныя сказы.

Злучнікі афармляюць пэўныя сэнсавыя адносіны (напрыклад, адносіны адначасовасці, умовы, мэты і г. д.) паміж названымі моўнымі адзінкамі. Кваліфікацыя гэтых адносін і ёсць граматычнае значэнне злучніка. Такім чынам, мы можам гаварыць пра тры ўзроўні ў семантыцы злучнікаў. На самым вышэйшым узроўні значэнне ўсіх злучнікаў кваліфікуецца як ідэя сувязі сінтаксічных адзінак. На больш нізкім вылучаюцца віды сінтаксічных адносін, у адпаведнасці з якімі кожная група злучнікаў надзяляецца больш прыватным значэннем — граматычным значэннем спалучальнасці, размеркавальнасці, часу, прычыны і г. д. Нарэшце, кожны асобны злучнік мае сваё значэнне, якое ўмоўна лічаць яго «лексічным» значэннем, хоць на самай справе значэнне кожнага канкрэтнага злучніка — гэта выражэнне

канкрэтнай разнавіднасці сінтаксічных адносін.

Вылучаюцца дзве асноўныя групы злучнікаў — злучальныя і падпарадкавальныя.

Злучальныя злучнікі — гэта сродак сувязі адносна раўнапраўных сінтаксічных адзінак: аднародных членаў сказа, састаўных частак складаназлучанага сказа і г. д. Злучальныя злучнікі маюць чатыры разнавіднасці: спалучальныя — адзіночны ці паўторны злучнік *і, ды* (у значэнні 'і'); расчлянёны злучнік *як — так і*, напрыклад: *Праходзіць ноч, і меркнуць зоры* (Я. Колас); супастаўляльныя — *а, але, ды* (у значэнні 'але'), *аднак, ж(жа), затое, а то*, расчлянёныя злучнікі *не тое што — а, не тое, што — але*, а таксама часціцы (у ролі злучнікаў) *іначай, інакш, адно, дык* і інш., напрыклад: *Сягоння нявольнік, а заўтра — тварэц краіны свабоднай і вольнай* (П. Трус); градацыйныя — *ды і, ды і то*, расчлянёныя *не толькі — але і, не толькі — а і* і інш., напрыклад: *Не толькі лётчык не разбіўся, але і самалёт застаўся цэлы;* пералічальна-размеркавальныя — адзіночны або паўторны злучнік *або (альбо), ці*, часціцы (у ролі злучнікаў) *ні, то, не то, ці то*, напрыклад: *Як многа гаворым і нудна аб рэчы такой, як паэзія,— ці быць ёй святочнай, ці буднай, ідыліяй ці марсельезаю?* (М. Танк). Калі сувязь паміж сінтаксічнымі кампанентамі аслабляецца, а другі кампанент змяшчае якія-небудзь дадатковыя звесткі, тады ўсе адзіночныя нерасчлянёныя злучальныя злучнікі набываюць значэнне далучальнасці: *Сымонку любілі бацька і маці дужа шчыра і крэпка; ды было завошта яго любіць* (Ц. Гартны). Асобныя злучнікі пачынаюць спецыялізавацца ў далучальнай функцыі. Гэта *ды і (дый)*, часціцы (у ролі злучнікаў) *нават, прытым, пры гэтым, асабліва* і інш., напрыклад: *А вакол стаяць дзяўчаты. Шмат хлапцоў, мужчын, кабет. Тут сынок, ды тут і тата, Тут і ўнучак, тут і дзед* (К. Крапіва); *Раптам сцішылася прырода, замерла. Нават вяз не варухнецца на беразе, нават паветра застыла* (М. Ваданосаў).

Падпарадкавальныя злучнікі ўжываюцца як сродак сувязі частак складаназалежнага сказа. У адрозненне ад злучальных, незалежных ад кампанентаў сказа падпарадкавальныя злучнікі заўсёды ўключаюцца ў залежны кампанент як яго неад'емны элемент — паказчык граматычнай формы даданай часткі складаназалежнага сказа. Падпарадкавальныя злучнікі звычайна не могуць ужывацца ў простым сказе (выключэнне складаюць толькі параўнальныя злучнікі *як, быццам, нібы* і іх сінонімы). Падпарадкавальныя злучнікі ў залежнасці ад граматычных адносін, якія яны афармляюць, дзеляцца на ча́савыя *(калі, як, раз* і інш.), прычынныя *(бо, таму што, пакольні* і інш.), мэтавыя *(каб, для таго каб, абы)*, выніковыя *(так што)*, уступальныя [*хоць, хіба (ня)хай, дарма што* і інш.], умоўныя [*калі, калі б, каб, як, як бы, абы, калі... то(дак), як...то, што, чым, чымся, бы, нібы, быццам, як быццам* і інш.]. Напрыклад: *Упусціла паводдзі старое, калі вір маладога нахлынуў* (П. Трус); *І стаяць пабрацімы, хоць радзее іх строй* (А. Бялевіч). Разам з тым ёсць шэраг злучнікаў, якія не маюць аднаго якога-небудзь пэўнага значэння (т. зв. асемантычныя злучнікі): *што, як, чым.*

Падзел злучнікаў на злучальныя і падпарадкавальныя не ахоплівае ўсяго лексічнага складу гэтай часціны мовы. Ёсць адна невялікая прамежкавая група т. зв. тлумачальных злучнікаў: *гэта значыць, а іменна, менавіта, інакш кажучы.* Праўда, называць іх злучнікамі можна толькі ўмоўна, таму што гэтыя словы ці словаспалучэнні толькі ўступілі на шлях пераходу ў злучнікі. Тлумачальныя злучнікі, падобна да злучальных, могуць ужывацца і ў простым, і ў складаным сказе, а падобна да падпарадкавальных — яны не могуць быць паўторнымі, не могуць звязваць аднародныя кампаненты.

У залежнасці ад паходжання і структуры злучнікі дзеляцца на невытворныя *(і, а, ды, ці, але* і інш.) і вытворныя. Вытворныя паддаюцца марфемнаму аналізу. Гэта, напрыклад, *дый* (з *ды+і*), *або* (з *альбо*, якое, у сваю чаргу, узыходзіць да *а+либо* ці *а+любо*), *абы* (з *а+бы*), а таксама злучнікі, якія ўзніклі ў выніку аб'яднання невытворных злучнікаў з часціцамі: *толькі што, як толькі, як быццам, а то* і інш. Сюды ж адносяцца злучнікі, якія ўтварыліся шляхам пераходу са слоў іншых граматычных класаў, напрыклад: *што* (з займенніка), *быццам* (з часціцы), *калі* (з прыслоўя) і г. д.

Паводле саставу злучнікі дзеляцца на простыя і састаўныя. Простыя складаюцца з адной лексемы *(і, а, ды, дый, або* і інш.). Састаўныя — гэта фактычна яшчэ не злучнікі ў марфалагічным сэнсе, а толькі «сыравіна» для іх — сродкі сувязі частак складанага сказа. Яны ўтварыліся шляхам аб'яднання ўказальнага слова галоўнай часткі са злучнікам даданай часткі: *таму што, так што, тады як, нягледзячы на тое што, з прычыны таго што* і інш. Напрыклад: *Не трэба туды ісці, таму што і масток, і Віктар увесь час перад вачыма* (А. Кулакоўскі); *Нягледзячы на тое, што прыказкі і прымаўкі самастойна не бытуюць, яны не трацяць ад гэтага свайго велізарнага значэння* (К. Крапіва). Састаўныя злучнікі выступаюць як у нерасчлянёным выглядзе (напрыклад, выніковы злучнік *так што*, прычынны *таму што*, супастаўляльны *тады як*), так і ў расчлянёным, або парным. У апошнім выпадку першая частка такога злучніка знаходзіцца ў адной частцы складанага сказа, а другая — у наступнай яго частцы, напрыклад: *так — што, датуль — пакуль, з-за таго — што* і г. д., а таксама *калі — то, хоць — але, хоць — аднак* і інш. Утвараць пару могуць не толькі два злучнікі, а і злучнік з часціцай: *не толькі — а і, не толькі — але і* і г. д.: *Дзень быў не толькі марозны, а і ветраны.*

У залежнасці ад спосабу ўжывання ў сказе або ў тэксце злучнікі дзеляцца на адзіночныя і паўторныя. Адзіночныя не паўтараюцца пры кожным кампаненце злучэння, а знаходзяцца паміж імі або ўваходзяць у склад аднаго з кампанентаў. Паўторныя злучнікі паўтараюцца пры кожным кампаненце злучэння: *У гэтай дружнай грамадскай працы так многа і музыкі, і паэзіі, і сілы, і хараства* (Я. Колас). Часціцы *ні, то, не то* і інш. без паўтарэння ролю злучнікаў выконваць не могуць. Напрыклад: *Ні далеч, ні час не заслоняць мне родных бароў* (Я. Колас); *Над балотцам за палеткамі то кружылі, то ключом адплывалі гусі* (Я. Скрыган).

Ролю сродкаў сувязі паміж часткамі ў складаназалежным сказе выконваюць і займеннікі *(што, які, каторы, чый, колькі)*, і займеннікавыя прыслоўі *(як, калі, дзе, куды, калі, адкуль* і г. д.). Гэтыя словы не з'яўляюцца злучнікамі. Яны не трацяць свайго лексічнага значэння, выконваюць ролю членаў сказа ў даданай частцы, напрыклад: *Неба завалакло хмарамі, якія, здаецца, застылі на месцы* (П. Пестрак). У гэтым сказе займеннік *якія*, выконваючы ролю сродку сувязі даданай азначальнай часткі з галоўнай часткай, у складзе даданай выступае як дзейнік. Такія сродкі сувязі ў граматыцы называюцца злучальнымі словамі.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985. С. 202—204; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## ЗНАЧЭННЕ СЛОВА

Чалавек пазнае навакольны свет праз органы пачуццяў. Зрокавыя, слыхавыя і іншыя адчуванні фарміруюць у свядомасці пэўныя матэрыяльныя вобразы рэчаіснасці, на іх аснове ўтвараюцца лагічныя паняцці. Словы — імёны гэтых паняццяў, а тое, што абазначана словам,— яго лексічнае значэнне.

Назва якой-небудзь рэчы не мае нічога агульнага з яе прыродай. Калі б паміж прадметам і словам існавала непасрэдная сувязь, то адны і тыя прадметы ў розных народаў мелі б

аднолькавыя імёны. У сапраўднасці гэта не так. Расліну, якая мае лацінскую назву chelidonium, беларусы завуць *падтыннікам* (расце пад тынам, плотам), рускія — *чыстацелам* (робіць цела чыстым). У аснове многіх назваў ляжыць пэўная характэрная (бачная, адчувальная) прыкмета: *чарніцы, лісічкі* — колер; *парэчкі, баравік, падасінавік* — месца, дзе расце; *сыраежка, масляк* — якасць. Такія назвы — матываваныя, яны маюць унутраную форму, г. зн., што іх значэнне перадаецца з дапамогай іншага значэння, і мы разумеем, чаму менавіта так названы прадмет, прыкмета, дзеянне: *снежань* — ад снег, *студзень* — ад студзіць, *бяляк* — ад белы. Гукавая абалонка іншых слоў не дае ўяўлення пра іх значэнне. Яны не захавалі характэрнай прыкметы назвы, і таму лічацца нематываванымі: *вада, ноч, сонца, хлеб.*

З цягам часу ўнутраная форма слова можа зацямняцца і наогул страчвацца. Не кожны ведае, што словы *суткі* і *ткач, збожжа* і *бог, досыць* і *сыты* аднаго кораня, што назоўнік *перамога* ўзыходзіць да дзеяслова *магчы* (старажытнае *мочь*) — перамагчы (пераадолець). Унутраная форма слова можа траціцца ў выніку змены значэння слова, страты роднаснага слова з выразнай матывацыяй, змены фанетычнага складу слова. Так, назоўнік *гасцінец* (дарога, шлях) ужо не звязваецца са словамі *госць, гасціць*, якія ў старажытнай беларускай мове абазначалі «купец», «гандляваць». Засталося ў сучаснай мове з такім значэннем роднаснае ім слова *гасцініца* — прытулак для падарожнікаў. Словы *дасягнуць, дасягненне*, якія маюць у сучаснай беларускай мове значэнне «станоўчы вынік, рух», звязаны агульным значэннем з устарэлым *сяг* — крок. Толькі шляхам спецыяльнага лінгвістычнага аналізу можна паказаць блізкасць слоў *шчасце* і *частка, крыўда* і *крывы, абаранак* і *варыць, жыццё* і *жыта.*

Значэнні слоў бываюць прамыя і пераносныя. П р а м о е, або н а м і н а т ы ў н а е (ад лац. nominativus называльны), значэнне непасрэдна звязана з адлюстраваннем у свядомасці пэўнай з'явы рэчаіснасці: *камень* — прадмет, *вясёлы* — якасць, *пяць* — лік, *глыбока* — прыкмета дзеяння. Пераноснае значэнне адлюстроўвае з'яву рэчаіснасці апасродкавана: *шумлівае дрэва* і *шумлівае юнацтва, жанчына ўдавее* і *поўня ўдавее, чалавек плача* і *скрыпка плача.*

У кожнай мове ёсць словы, якія маюць толькі адно значэнне, і словы, якія абазначаюць некалькі прадметаў, прыкмет, дзеянняў. Сярод а д н а з н а ч н ы х, або м о н а с е м а н т ы ч н ы х (ад грэч. monos адзін, semantikos той, што абазначае),— тэрміны *(алгарытм, арфаграфія, метан, парабала)*, словы з канкрэтным значэннем *(аловак, парта, сшытак)*. М н а г а з н а ч н ы я, або п о л і с е м і ч н ы я (ад грэч. polýsēmos шматзначны), словы маюць больш як адно значэнне і абазначаюць некалькі прадметаў, прыкмет, з'яў, дзеянняў. «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» падае, напрыклад, такія значэнні мнагазначнага назоўніка *зямля*: 1) планета; 2) суша (у адрозненне ад воднай прасторы); 3) глеба, грунт; 4) паверхня, на якой стаім, па якой рухаемся; 5) пэўная тэрыторыя; 6) краіна, дзяржава (гл. **Полісемія**).

Значэнні мнагазначнага слова праяўляюцца ў спалучэннях з іншымі словамі, у пэўных кантэкстах. У кожным канкрэтным выпадку маўлення мнагазначнае слова мае толькі адно значэнне: *Лось устаў* (падняўся) *на ногі, панюхаў лёд, прабег трушком, рассыпаючы капытамі снег* (І. Пташнікаў); *На дварэ светла, толькі што ўстаў* (узышоў) *месяц* (М. Лобан).

Мнагазначнасць развіваецца звычайна на аснове падабенства або збліжанасці (сумежнасці) абазначаных гэтым словам прадметаў і з'яў рэчаіснасці. Слова або выраз, ужытыя з пераносным значэннем на аснове падабенства, называюцца м е т а ф а р а й (ад грэч. metaphora перанясенне). Метафара можа выконваць дзве функцыі: называння (намінатыўную) і характарыстычную, стылістычную. Функцыю н а м і н а ц ы і забяспечваюць так званыя агульнамоўныя, або мёртвыя, сцёртыя, акамянелыя, метафары — словы і выразы, якія даўно ўжо не ўспрымаюцца як вобразныя і якія з'яўляюцца сёння адзінымі найменнямі прадметаў і з'яў: *ножка стала, горла збанка, вусце (вусны) ракі, галоўка маку, падножжа гары, нясе холадам.*

С т ы л і с т ы ч н а я функцыя забяспечваецца характарыстычнымі, паэтычнымі метафарамі. Яны могуць пераносіць фізічныя якасці прадмета на псіхічныя ўласцівасці асобы (*мяккі характар)*, прыкметы канкрэтных прадметаў на адцягненыя паняцці (*час бяжыць, ідзе)*, дзеянні людзей на з'явы прыроды, абстрактныя паняцці *(віхор вые, бура стогне, душа ные).*

Новае бачанне рэчаіснасці, нечаканае асэнсаванне вядомых, усім знаёмых рэчаў дае пісьменніку магчымасць ствараць свежыя вобразы, выклікаць складаныя асацыяцыі праз індывідуальна-стылістычныя, або аўтарскія, метафары: *А з-за краю нябёс вочы ўскінуў дзянёк* (Я. Колас); *Чорная хмара адбегла, // Кнігаўкі п'юць ручаі* (П. Панчанка); *Пасвіцца прыцемак сіні // На пераспелым гародзе. // За дзень жываты ўгрэлі ў цёплых барознах дыні* (Р. Барадулін).

М е т а н і м і я (ад грэч. metōnymia перайменаванне) — перанос назвы з аднаго прадмета на другі на аснове іх знешняй ці ўнутранай сувязі, сумежнасці. Назва пераносіцца: з посуду на яго змесціва: *шклянка* — посуд і мера вадкасці ці сыпучага рэчыва ў гэтым посудзе; з матэрыялу на выраб з гэтага матэрыялу: *серабро* — метал і вырабы з гэтага металу; з паселішча на яго жыхароў: *вёска* — населены пункт і сукупнасць жыхароў гэтага населенага пункта; з прадмета на асобу: *лапаць* — абутак і пагардлівая назва адсталага, некультурнага чалавека; з дзеяння на яго вынік: *вышыўка* — шыццё і аздоба гэтым шыццём; з памяшкання на сукупнасць асоб: *аўдыторыя* — памяшканне і людзі ў гэтым памяшканні; імем, прозвішчам аўтара могуць абазначацца яго творы: *Прачытаў усяго Мележа;* імем, прозвішчам майстра, вынаходніка могуць быць названы яго вырабы, знаходкі: *галіфэ* — прозвішча французскага генерала і штаны ваеннага крою, прыдуманыя гэтым генералам.

Разнавіднасць метаніміі — с і н е к д а х а (грэч. synekdochē суадноснасць) — перанясенне назвы паводле колькаснай прыкметы: частка замест цэлага — *Магутнае слова, ты, роднае слова! // Са мной ты на яве і ў сне; // Душу мне затрэсла пагудкаю новай, // Ты песень найчыла мяне* (Я. Купала); *Хлопцу страшна і цікава: // Што замысліў гэты пан, // Гэта доўгая халява, // Шыты золатам жупан* (Я. Колас); адзінкавае замест шматлікага — *Натура ўжо, відаць, такая, // Што чалавеку // З кожным днём // Заўжды чагосьці не хапае, // Хоць і ў парадку ўсё кругом* (П. Броўка).

Г р а м а т ы ч н а е з н а ч э н н е слова ў адрозненне ад лексічнага ўласціва не аднаму слову, а цэлым разрадам, класам слоў. Граматычнае значэнне наслойваецца на лексічнае і ўдакладняе яго, яно паказвае на прыналежнасць слова да пэўнай часціны мовы, акрэслівае магчымасці яго словазмянення і спалучэння з іншымі словамі і выражаецца канчаткам або канчаткам і прыназоўнікам адначасова, прыстаўкай, націскам, праяўляецца ў граматычных катэгорыях роду, ліку, склону, трывання, часу, ладу і інш. У сказе *На Купалле там птушка садзіцца, пяе* (Я. Купала) склонавы канчатак *-а* ў слове *птушка* выражае граматычнае значэнне і паказвае, што гэта — назоўнік адзіночнага ліку, жаночага роду, назоўнага склону, 1-га скланення; асабовы канчатак дзеяслова *пяе* з'яўляецца граматычным паказчыкам формы цяперашняга часу, адзіночнага ліку, 3-й асобы, 1-га спражэння.

Характарыстыка значэнняў слова даецца тлумачальнымі слоўнікамі.

*Літ.:* Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фразеалогія. Лексікаграфія. Фразеаграфія. Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. 2 выд. Мн., 1984; К р а с н е й В. П. Грані слова: Факультатыўны курс «Лексіка і фразеалогія беларускай мовы». Мн., 1986.

*А. К. Юрэвіч.*

Н — Устаў 11 ст.

ні — Паўустаў 15 ст.

ні — Паўустаў 16 ст.

И — Паўустаў 17 ст.

и — Скарапіс 15 ст.

иї — Скарапіс 16 ст.

Ии — Скарапіс 17 ст.

ІИи — Ф.Скарыны 16 ст.

НЇі — Статута ВКЛ 1588 г.

Ии — Друкаваная 17 ст.

и — Грамадзянская 18 ст.

*Мова наша — выку́тая з золата—*
*не йржавее,*
*бліщчыць,*
*зіхаціць.*
*Гэта мова паэтаў і волатаў,*
*скарб, які нас трымаў пры жыцці.*
*Каб не мова, даўно б мы растаялі,*
*расплыліся б імглой між чужых,*
*збеглі ў вырай гусінаю стаяю...*
*Але з мовай — і мы будзем жыць.*

Наталля Арсеннева



**І** — *дзесятая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай І («і дзесяцярычнае»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай І («ёта»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала галосны гук* і *найчасцей перад галоснымі* і й (іосифъ, пріехати, синій). *Мела таксама лічбавае значэнне «дзесяць». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах (найбольш характэрныя варыянты І, İ, Ї), якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. З часоў Ф. Скарыны стала адрознівацца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. Ужывалася радзей, чым зараз, бо паралельна з ёй для абазначэння гука* і *выкарыстоўвалася літара* И *з* Н *(«іжэ»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай* Н *(«эта»)* — миръ, чинити, *а ў запазычаных словах* — Ѵ *(«іжыца»)* — кѵрилъ, мѵро. *У сучаснай беларускай мове абазначае нелабіялізаваны галосны гук* і *пярэдняга рада верхняга пад'ёму і мяккасць папярэдняга зычнага* (ліпа — *«л'іпа»*, нізіна — *«н'із'іна»*), *а ў пачатку слоў, пасля галосных,* ў, ь *і апострафа — спалучэнне гукаў* йі (іскра — *«йіскра»*, ускраіна — *«ускрайіна»*, салаўіны — *«салаўйіны»*, Ільіч — *«Іл'йіч»*, аб'інець — *«абйін'эц'»*). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў выразе* Паставіць кропкі над і — *удакладніць усе дэталі, не пакінуць нічога недагаворанага. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ІКП, ІТК). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дзесяты» (група «І»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (кабіна № 3і).*

*А. М. Булыка.*

## ІДЫЁМЫ

Ідыёмы (ад грэч. idiōma своеасаблівы выраз) — складаныя па структуры адзінствы з цэласным непадзельным семантычным зместам. Як ідыёмы могуць выступаць словы, значэнне якіх не абумоўлена сукупнасцю значэнняў іх марфем, словазлучэнні, семантычна несуадносныя са словамі-кампанентамі, сказы, якія не раскладаюцца на асобныя значэнні форм. Такім чынам, ідыяматычнасць характэрна для лексікі, марфалогіі і сінтаксісу. У вузкім сэнсе слова пад ідыёмамі разумеюць фразеалагічныя зрашчэнні і адзінствы, матываванасць значэння якіх страчана і не ўсведамляецца носьбітамі мовы: *куры не клююць* — многа, *даць рады* — справіцца, *лёстачкамі слаць* — дагаджаць, *адным духам* — хутка. Сукупнасць ідыём пэўнай мовы складае яе ідыяматыку, у якой праяўляецца своеасаблівасць і адметнасць некаторых рыс лексікі і граматыкі.

Л е к с і ч н ы я ідыёмы — спалучэнне двух і больш слоў пастаяннага лексіка-граматычнага саставу, злітнае значэнне якіх не вынікае з лексічнага зместу асобных элементаў: *душою загавець* — памерці, *ні села ні пала* — нечакана, *у свіныя галасы* — позна. Яны ўзнікаюць у выніку метафарызацыі спалучэння слоў свабоднага значэння, адлюстраванага моўнай практыкай, або замацавання за словам традыцыі звязнага ўжывання.

Прычыны семантычнай злітнасці разнастайныя. У склад некаторых ідыём уваходзяць словы, якія выйшлі з ужытку. Калі звярнуцца да гісторыі гэтых архаізмаў, то можна ўсвядоміць матывацыю звязнага значэння. Слова *лахі*, напрыклад, першапачаткова азначала агульную назву рознага адзення. Гэта тлумачэнне памагае нам зразумець сучаснае значэнне ідыёмы *лахі пад пахі* — узяць свае пажыткі з сабой, хутка сабрацца і пайсці (пабегчы). Звяртанне да гісторыі народных абрадаў, рамёстваў, звычаяў дазваляе вытлумачыць многія ідыёмы праз забытыя значэнні іх кампанентаў. *Вешаць нос на квінту* — маркоціцца (квінта — скрыпічная струна), *даць пытлю* — даць наганяй (пыталь — машына для пытлявання пшаніцы), *шарварку адрабляць* — працаваць абыякава (шарварка — від сялянскай павіннасці), *вомегам вылазіць* — адпомсціцца (вомег — назва расліны).

Граматычныя архаізмы ў складзе ўстойлівых выразаў таксама прадвызначаюць іх семантычную непадзельнасць: *стаяць уваччу, хадзіць на часёх, як мага*. У сучаснай мове не ўжываюцца форма назоўніка парнага ліку *(у ваччу)*, форма назоўніка меснага склону — на *-ох (часёх)*, форма кароткага дзеепрыметніка незалежнага стану цяперашняга часу мужчынскага роду *(мага)*.

Семантычная непадзельнасць ідыём можа падтрымлівацца і наяўнасцю ў іх складзе кампанентаў, якія не ўсведамляюцца як самастойныя словы, бо не існуюць па-за межамі выразаў: *даць* ***лататы*** — уцячы, ***бібікі*** *біць* — гультаяваць, *збіцца з* ***тропу*** — заблытацца, *лезці* ***пішчом*** — намагацца з усяе сілы.

Гістарычная эвалюцыя ўстойлівых спалучэнняў можа прыводзіць да пераасэнсавання іх кампанентаў, якія набываюць значэнне, істотна адрознае ад першапачатковага, уласцівага ім у эпоху ўзнікнення выразу: *хоць рэпку спявай* (дзе *рэпка* — спецыяльныя абцугі), *віламі па вадзе пісана* (дзе *вілы* — кругі), *ні кала ні двара* (дзе *кол* — невялікі ўчастакворнай зямлі), *аддаць канцы* (дзе *канцы* — канаты). Пераасэнсаванне такіх слоў прывяло да страты матывацыі значэння, што ў

сваю чаргу абумовіла ідыяматычнасць выразаў.

Лексічныя ідыёмы могуць суадносіцца і са свабоднымі спалучэннямі слоў адпаведнага складу. Аднак семантычная сувязь кампанентаў устойлівых выразаў са словамі свабоднага ўжывання страчваецца ў выніку метафарычнага пераасэнсавання: *табаку важыць* — драмаць, *пячы ракаў* — чырванець, *біць у хамут* — уперціся, *у лапці абуць* — ашукаць. Бясспрэчна, што пераносны, фразеалагічны сэнс выразу *першая ластаўка* ўзнік на аснове прамога: «ластаўка, якая ўвесну прылятае першай». Семантычнае абнаўленне свабоднага выразу адбылося ў выніку ўсё больш вольнага, метафарызаванага яго ўжывання. Прыватны выпадак даў падставу для абагульнення. Фразеалагічнае значэнне «пачынальнік чаго-небудзь» зразумелае і не патрабуе гістарычных экскурсаў.

Значны пласт беларускай ідыяматыкі ідзе з жывой народнай гаворкі. Такія ідыёмы з ярка выражанай экспрэсіўнасцю даюць вобразна-эмацыянальную характарыстыку прадметам, дзеянням: *у сабакі вачэй пазычыўшы, душу на часткі рваць, даць драла, блёкату аб'есця, мора па калена*. Афарбоўку жартаўлівасці маюць ідыёмы каламбурнага характару: *бобу ў гаросе шукаць, спаць і курэй бачыць, скрывіўся як серада на пятніцу, накасіць дугою сена*. Ідыяматыка гутарковай мовы часта будуецца на прыёме алагізму: *з ветру вяроўкі віць, плячысты на жывот, ветрам падшыты, грушы на вярбе*.

Крыніцай ідыяматыкі можа быць прафесійнае маўленне: *шыты белымі ніткамі, гнуць на свой капыл, званіць ва ўсе званы*. Як ідыёмы выступаюць літаратурныя выразы, сувязь якіх з канкрэтным творам выразна ўсведамляецца носьбітамі мовы і выклікае асацыяцыю з мастацкім вобразам, пакладзеным у аснову матывацыі: *крамная скура, свінтус грандыёзус, жаба ў каляіне, хварэць на пана*. Кніжны характар маюць ідыёмы, што паходзяць з твораў рэлігійнага зместу, паэм Гамера і іншых антычных аўтараў: *адным мірам мазаны, спяваць лазара, казёл адпушчэння*.

Марфалагічныя ідыёмы — вынік гістарычных пераўтварэнняў марфалагічнага складу слова, у прыватнасці апрошчання. Апрошчанне — граматычны працэс, у выніку якога асобныя часткі слова складанай марфалагічнай будовы становяцца пазбаўленымі значэння. Для марфалагічных ідыём характэрна страта сэнсавых сувязей семантычна паўназначных марфем у складзе цэлага слова, якое па гэтай прычыне цяпер успрымаецца як невытворнае. Так, разбурылася семантычная сувязь паміж утваральнай асновай *дуб-* і вытворным словам *дубец*, у выніку чаго першапачатковая семантыка «малы, малады дубок» з цягам часу стала вызначацца як «тонкі, гнуткі, дубчык увогуле» (неабавязкова дубовы). З пункту погляду сучаснага стану мовы невытворнымі з'яўляюцца такія складаныя словы, як *абібок* (гіст. а-бі-бок), *цемрашал* (гіст. цемр-а-шал). Не вылучаюцца суфіксы і прыстаўкі ў словах *лапаць* (гіст. лап-аць), *поплаў* (гіст. по-плаў), *абед* (гіст. аб-ед), *нарыс* (гіст. на-рыс). Іх састаўныя часткі страцілі здольнасць матываваць лексічнае значэнне слова. Да ўзнікнення марфалагічных ідыём прыводзіць яшчэ адна прычына: утваральная аснова, з якой звязаны зыходны сэнс слова, выйшла з ужытку і стала невядома носьбітам мовы ў свабодным ужыванні: *жыр* (багацце) — *жыраваць, персі* (грудзі) — *наперснік, прапар* (сцяг) — *прапаршчык, льга* (свабода) — *льгота*.

Сінтаксічныя ідыёмы — простыя або складаныя канструкцыі, агульнае сінтаксічнае значэнне якіх не вынікае з сумы значэнняў форм і ўласцівых ім сінтаксічных адносін. Ідыяматычнасць такой простай канструкцыі, як словазлучэнне, заснавана на разбурэнні жывых сінтаксічных сувязей паміж словамі: *абое рабое, чуць свет, на святыя ніколі*. Як вядома, семантычная непадзельнасць характэрна для ўсіх фразеалагічных выразаў, сінтаксічная ж непадзельнасць — уласцівасць неабавязковая. Страта сінтаксічных адносін паміж словамі абумоўлівае супярэчнасць паміж формай і функцыяй ідыяматычнага словазлучэння, якое, маючы складаную структуру, у сказе выступае як яго член, падобна слову.

Сінтаксічная непадзельнасць канструкцыі, якая мае форму простага ці складанага сказа, праяўляецца ў наяўнасці аднаго цэласнага зместу *(Авохці мне! Вось табе і на! Такое бяды! Што за ліха!)* або ў арганізацыі сказа па застылых мадэлях тыпу *Работа работай, а...; Хочаш, не хочаш, а...*

Ідыяматыка — сфера праяўлення нацыянальнай самабытнасці і непаўторнасці, таму што гістарычнае пераасэнсаванне свабодных спалучэнняў слоў і фарміраванне новых паняццяў звязана з матэрыяльным і духоўным жыццём народа, асаблівасцямі яго гісторыі і культуры. Нацыянальная форма выражэння аднаго і таго ж паняцця ў розных мовах істотна адрозніваецца, таму ідыёмы маюць толькі сэнсавыя адпаведнікі, яны не могуць перакладацца літаральна, паслоўна. Такім чынам, вывучэнне ідыём цікавае не толькі ў чыста лінгвістычным, але і агульнакультурным аспекце.

Стылістычная роля ідыём зводзіцца да таго, што яны могуць выступаць вобразна-экспрэсіўнымі эквівалентамі аднаслоўных паняццяў і на правах сінонімаў істотна ўзбагачаць лексічны склад і пашыраць выяўленчыя магчымасці літаратурнай мовы. Трапнасць, вобразнасць і сэнсавая ёмістасць вызначаюць безумоўную вартасць і мастацкую каштоўнасць ідыём, а розная ступень праяўлення ідыяматычнасці і экспрэсіўнасці дазваляе выкарыстоўваць іх у розных функцыянальных стылях — у мастацкіх творах, публіцыстыцы, бытавым маўленні.

*Літ.:* Аксамітаў А. С. Беларуская фразеалогія. Мн., 1978; Кривицкий А. А., Михневич А. Е., Подлужный А. И. Белорусский язык для небелорусов. 2 изд. Мн., 1978; Янкоўскі Ф. М. Беларуская фразеалогія. Мн., 1981; Лазоўскі У. М., Красней В. П., Шчарбакова І. М. Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія. М., 1984.

*І. Р. Шкраба.*

## ІДЭАГРАФІЯ

Тэрмін «ідэаграфія» (ад грэч. idéa ідэя, вобраз і graphо пішу) абазначае два паняцці. Па-першае, гэта своеасаблівая сістэма пісьма. У адрозненне ад алфавітнага пісьма, якое выкарыстоўвае графічныя знакі (літары) для перадачы гукаў і складоў, ідэаграфічнае пісьмо выкарыстоўвае графічныя знакі (ідэаграмы) для перадачы паняццяў. Па-другое, гэта тэорыя і практыка ўкладання ідэаграфічных слоўнікаў. У адрозненне ад тлумачальных, перакладных і многіх іншых слоўнікаў, дзе загаловачныя словы звычайна размешчаны па алфавіце, ідэаграфічныя слоўнікі падаюць словы з улікам блізкасці іх значэнняў.

Фарміраванне найбольш старажытных сістэм ідэаграфічнага пісьменства (егіпецкага, шумерскага, кітайскага і інш.) прыпадае на 4—3-е тысячагоддзі да нашай эры. Яны прыйшлі на змену малюнкаваму, або піктаграфічнаму (ад лац. pictus маляваны і грэч. graphо пішу), пісьму, якое пры дапамозе малюнкаў давала дакладную інфармацыю пра канкрэтныя прадметы (*дом, птушка, банан* і г. д.), але не магло перадаць адцягненыя паняцці тыпу *мужнасць, дзень, абмен, хуткі, прыгожы, думаць* і інш. Таму з цягам часу малюнак пачаў набываць дадатковыя, пераносныя значэнні. Напрыклад, малюнак сонца стаў выступаць не толькі як піктаграма канкрэтнага прадмета «сонца», але і як ідэаграма для абазначэння адцягненых паняццяў «яркі, светлы, ясны, чысты, белы, дзень» і нават «сонца свеціць, дзень настаў» і інш. Паступова змяняўся і знешні выгляд малюнка: замест усяго прадмета пачалі маляваць толькі яго найбольш характэрную частку, якая сімвалізавала сабою ўвесь прадмет. Лагічным вынікам ня-

спыннага развіцця чалавечага мыслення (а разам з ім і пісьменства) у кірунку «ад канкрэтнага — да больш абстрактнага» стала паступовая замена піктаграмы ідэаграмай — графічным знакам у выглядзе ўмоўнага відарысу або сімвала, які перадаваў на пісьме шэраг асацыятыўна звязаных паняццяў.

Стварэнне ідэаграфічнага пісьма стала значным набыткам чалавечага розуму, паколькі выкарыстанне ідэаграм у адрозненне ад практыкі піктаграфічнага пісьменства значна менш залежала ад індывідуальных уменняў тагачасных людзей. Гэта перавага ідэаграфіі абумоўлена тым, што піктаграфічнае пісьменства аб'ядноўвала практычна неабмежаваную колькасць малюнкаў самых розных прадметаў, але апошняе не садзейнічала графічнаму атаясамленню і адназначнаму разуменню піктаграм рознымі людзьмі і вымушала пісца ў кожным канкрэтным выпадку вынаходзіць патрэбны яму графічны знак (малюнак) нанава. Ідэаграфічнае пісьмо пераадолела гэты недахоп за кошт высокай стабільнасці і значнай стандартызаванасці ў напісанні ідэаграм. Акрамя таго, дзякуючы шматзначнасці ідэаграм, іх колькасць стала дастаткова абмежаванай, што ў значнай ступені садзейнічала іх запамінанню. Паколькі ў радавога пісца ўжо не было патрэбы кожны раз вынаходзіць ідэаграмы (ён проста браў іх гатовымі з памяці), то паявілася магчымасць аднолькава пісаць і адпаведна адназначна разумець ідэаграмы нават тымі людзьмі, якія былі аддзелены значнымі прамежкамі часу. У выніку ідэаграфічнае пісьменства стала для тагачаснага грамадства надзейным і па-сапраўднаму універсальным сродкам назапашвання разнастайных ведаў.

Далейшае развіццё грамадскай вытворчасці і гандлю, фарміраванне дзяржаў і шматлікіх форм уласнасці яшчэ больш ускладнілі ідэаграфічнае пісьмо. Шматзначнасць асобных ідэаграм павялічылася настолькі, што ўзнікла праблема размежавання на пісьме розных значэнняў адной і той ідэаграмы, каб пазбегнуць іх памылковага, аманімічнага разумення. Каб вырашыць гэту праблему, у старажытнасці перад кожнай шматзначнай ідэаграмай на пісьме пачалі ставіць так званыя д э т э р м і н а т ы в ы — ідэаграмы, якія абазначалі найбольш агульныя, абстрактныя паняцці і родавыя катэгорыі, такія, як імёны багоў, назвы краін, уласныя імёны мужчын, уласныя імёны жанчын, назвы птушак, назвы прадметаў з дрэва і інш. Напрыклад, у акадскім ідэаграфічным пісьме перад ідэаграмамі, якія абазначалі крэсла, трон, ложак і іншыя прадметы мэблі, заўсёды ставіўся дэтэрмінатыў 'дрэва', а ў старажытнакітайскай мове для размежавання на пісьме паняццяў 'старажытны, ацэньваць, цётка і вол', якія абазначалі адной і той ідэаграмай з аднолькавым гучаннем [гу], выкарыстоўвалі дэтэрмінатывы 'чалавек, жанчына, карова'.

Поруч з вырашэннем праблемы амаграфічнасці старажытных ідэаграм іх групоўка па родавых катэгорыях (дэтэрмінатывах) садзейнічала стварэнню тэматычнай класіфікацыі ідэаграм і абазначаных імі паняццяў. З цягам часу яна была зафіксавана ў першых тэматычных слоўніках і прадметных паказальніках старажытнасці, якія больш за 3700 гадоў таму назад выступілі ў якасці праваобразаў будучых ідэаграфічных слоўнікаў. Групоўка ідэаграм у адзначаных слоўніках вакол тых дэтэрмінатываў, з якімі яны ўжываліся разам на пісьме, у значнай ступені скарачала час пошуку патрэбных ідэаграм і спрыяла іх хутчэйшаму засваенню.

Аднак і на гэтым развіццё ідэаграфічнага пісьменства не спынілася. Камбінаторны прынцып выкарыстання ідэаграм і дэтэрмінатываў для абазначэння новых паняццяў абумовіў паяўленне яшчэ больш складаных па графічнай будове ідэаграм. Яны ўтвараліся з графічных элементаў, звязаных паводле паняційнага зместу дэтэрмінатываў, і больш простых ідэаграм. Напрыклад, у шумерскім ідэаграфічным пісьме для абазначэння дзеяння 'есці' ідэаграма ўтворана з графічных элементаў дэтэрмінатыва 'рот' і ідэаграмы 'хлеб', а ідэаграма для абазначэння дзеяння 'піць' — з графічных элементаў дэтэрмінатыва 'рот' і ідэаграмы 'вада'.

Удасканаленне камбінаторнага спосабу ўтварэння новых ідэаграм садзейнічала ўсё больш актыўнаму выкарыстанню графічных элементаў адной ідэаграмы ў якасці «афіксаў» у складзе другой ідэаграмы. Пры гэтым частка такіх афіксаў паступова траціць свой паняційны змест і пачынае абазначаць вымаўленне ідэаграм. Паступовая (на працягу тысячагоддзяў) спецыялізацыя графічных элементаў ідэаграм для перадачы асобна зместу і асобна вымаўлення гэтых ідэаграм прывяла ў выніку да стварэння гукавога пісьма. Паслядоўная фанетызацыя пісьма, якую ажыццявілі старажытныя грэкі, азначала карэнны паварот у развіцці тагачаснага пісьменства, паколькі з гэтага моманту яно перастае быць незалежным сродкам выражэння думак і ператвараецца ў дапаможны сродак для перадачы гукавой абалонкі маўлення.

Устанаўленне дакладнай адпаведнасці паміж гукам і яго графічным абазначэннем (літарай) максімальна наблізіла пісьмовую мову да выразных магчымасцей вуснага маўлення, але разам з тым канчаткова пазбавіла графічны знак яго паняційнага зместу. (У якасці выключэння трэба адзначыць сучаснае кітайскае іерагліфічнае пісьмо, у якім, як і тысячы гадоў назад, графічны знак ідэаграфічнага характару перадае адначасова паняційны змест і гучанне іерогліфа). У практыцы слоўнікавай справы гэта прывяло да замены тэматычнай арганізацыі слоўніка паводле сэнсавых або прадметна-паняційных сувязей паміж ідэаграмамі на больш зручную ў фармальных адносінах алфавітную падачу рэестравых слоў паводле пачатковых літар іх літарнагукавой абалонкі. Таму з цягам часу прадметна-паняційныя сувязі паміж лексічнымі адзінкамі забыліся, а зафіксаваная ў старажытных слоўніках добра распрацаваная тэматычная класіфікацыя лексікі паступова закрываецца сярэдневяковым туманам пустой кабалістыкі.

Да ідэі стварэння тэматычна арганізаваных слоўнікаў чалавецтва вярнулася ўжо ў 19 стагоддзі. Апублікаваны ў 1852 г. лексікографам П. М. Ражэ ідэаграфічны «Тэзаўрус англійскіх слоў і выразаў» меў такі выключны поспех (толькі пры жыцці аўтара гэты слоўнік вытрымаў 28 перавыданняў), што літаральна за некалькі дзесяцігоддзяў пасля яго выдання прапанаваная ў ім схема тэматычнай класіфікацыі лексікі была прыстасавана для французскай, нямецкай, іспанскай, венгерскай, шведскай, галандскай і іншых моў. Рабіліся захады па стварэнні тэматычна арганізаваных слоўнікаў і ва ўсходнеславянскай лексікаграфіі. Першай такой спробай можна назваць тэматычную класіфікацыю 30 тысяч рускіх прыказак, якую распрацаваў У. І. Даль.

У наш час падрыхтоўка слоўнікаў ідэаграфічнага тыпу ідзе ў некалькіх кірунках. Па-першае, для вучоных і спецыялістаў ствараюцца інфармацыйна-пошукавыя слоўнікі-тэзаўрусы навуковых тэрмінаў. Так, у былым СССР выдадзены «Тэзаўрус навукова-тэхнічных тэрмінаў» (1972), «Тэзаўрус інфармацыйна-пошукавы па мовазнаўству» (1977), «Тэзаўрус па тэарэтычнай і прыкладной лінгвістыцы» (1978) і інш. Па-другое, вынікам шматлікіх псіхалінгвістычных даследаванняў стала ўкладанне асацыятыўных слоўнікаў: у 1977 г. апублікаваны «Слоўнік асацыятыўных норм рускай мовы» (у яго распрацоўцы прымалі ўдзел і беларускія мовазнаўцы), а ў 1981 г. «Асацыятыўны слоўнік беларускай мовы» А. І. Цітовай. У апошнім паняційны змест загаловачнага слова-стымула, якое можна разглядаць у якасці своеасаблівай «тэмы» ці «ідэаграмы», раскрываецца ў доўгім ланцужку слоў-рэакцый, якія атрыманы ў ходзе псіхалінгвістычных эксперыментаў. Напрыклад, на слова-стымул *мова* ў «Асацыятыўным слоўніку беларускай мовы» падаюцца наступныя найбольш частыя адказы сярод 1000 апытаных: МОВА — 268 *беларуская,* 223 *родная,* 59 *руская,* 47 *язык,* 36 *замежная.*

Але галоўным у стварэнні тэма-

тычна арганізаваных слоўнікаў, як і ў мінулыя часы, застаецца падрыхтоўка ідэаграфічнага слоўніка агульнаўжывальнай лексікі літаратурнай мовы. Тэарэтычныя передумовы для паспяховай распрацоўкі гэтай праблемы створаны працамі лінгвістаў Ю. М. Каравулава, А. Я. Шайкевіча, В. В. Маркоўкіна і інш. А першай спробай практычнага яе вырашэння з'яўляецца ўкладзены Ю. М. Каравулавым з дапамогай ЭВМ «Рускі семантычны слоўнік» (1982), у якім агульнаўжывальная лексіка рускай літаратурнай мовы размеркавана аўтаматычным шляхам па 1600 тэмах-паняццях з розных сфер жыцця сучаснага грамадства.

Праца ў гэтым кірунку вядзецца і ў межах беларускай лексікаграфіі. Напрыклад, з улікам прадметна-тэматычнага, ці анамасіялагічнага, прынцыпу створаны «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), дыялектны слоўнік «Народная лексіка» П. У. Сцяцко (1970), зборнік беларускіх народных прыказак і прымавак «Слова міма не ляціць» В. Д. Ліцвінкі і Л. А. Царанкова (1985) і падрыхтаваны да друку шматтомны «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» (1-ы том выйшаў у 1993 г.).

Такім чынам, ідэаграфія прайшла ў сваім развіцці доўгі і складаны шлях. Некалькі тысячагоддзяў назад яна сфарміравалася спачатку ў выглядзе своеасаблівай сістэмы пісьма. Потым ідэаграфічны (лагічна-паняційны) прынцып арганізацыі моўнага матэрыялу знайшоў сваё месца ў лексікаграфіі. Калі ж цяпер мы вядзем размову пра ідэаграфію, то маем на ўвазе ў першую чаргу сучаснае кітайскае пісьмо і шматлікія ідэаграфічныя, тэматычныя, асацыятыўныя слоўнікі самых розных моў (у тым ліку і беларускай). Нягледзячы на адрозненні, гэтыя слоўнікі маюць самае непасрэднае дачыненне да ідэаграфіі, паколькі ўсе яны (праўда, кожны па-свойму) адлюстроўваюць рэальную ў мове разнастайнасць усялякіх груповак слоў паводле блізкасці іх паняційнага зместу.

*Літ.:* Морковкин В. В. Идеографические словари. М., 1970; Караулов Ю. Н. Общая и русская идеография. М., 1976; Павленко Н. А. История письма. 2 изд. Мн., 1987. *В. К. Шчэрбін.*

## ІНДАЕЎРАПЕЙСКІЯ МОВЫ

Індаеўрапейскія мовы — самая вялікая ў свеце сям'я роднасных моў. Зараз на індаеўрапейскіх мовах гавораць амаль палова чалавецтва. Пашырэнне гэтых моў у дагістарычны перыяд было таксама вялікім, хоць ахоплівала меншую тэрыторыю. Сучасныя індаеўрапейскія мовы істотна адрозніваюцца адна ад другой, але быў перыяд іх надзвычай вялікай блізкасці і нават адзінства, перыяд, калі існавала адзіная індаеўрапейская мова, якая толькі падзялялася на дыялекты. Цяжка дакладна вызначыць, дзе і калі існавала гэта мова, але шмат лінгвістычных фактаў сведчыць на карысць магчымасці яе рэканструкцыі. Сучасная навука паглыбляецца нават у тыя далёкія часы, калі індаеўрапейская мова была адной з роднасных моў, якія ўзыходзілі да яшчэ больш старажытнай прамовы — настратычнай. Адпаведна настратычнай тэорыі індаеўрапейскія, семіта-хаміцкія, уральскія, дравідыйскія і картвельскія мовы генетычна роднасныя, гэта значыць адзінага паходжання былі амаль усе мовы белай расы. Існуе некалькі гіпотэз наконт першаснай лакалізацыі праіндаеўрапейскай мовы. Некаторыя факты сведчаць пра верагоднасць месцазнаходжання прарадзімы індаеўрапейцаў на поўнач і захад ад Чорнага мора (ад Дона і паўночнага Каўказа да Дуная). Ужо ў гістарычныя часы там жылі носьбіты індаіранскіх моў. Частка індаеўрапейцаў распаўсюдзілася на захад у Еўропу, на Балканы, далей у Сярэднюю Азію і праз Каўказ на Блізкі Усход, уключаючы Індыю. Згодна з другой тэорыяй індаеўрапейская моўная супольнасць узнікла на Блізкім Усходзе і адтуль распаўсюдзілася на ўсход і захад. З пункту гледжання верагоднасці міграцыйных працэсаў другая гіпотэза больш пераканаўчая, але існуюць і важкія аргументы на карысць першай. Справа ў тым, што ў індаеўрапейскіх мовах былі зафіксаваны запазычанні з семіцкіх моў, а гэта значыць, што ў пэўны перыяд свайго існавання носьбіты гэтых моў былі суседзямі. Магчыма таксама, што розныя лакалізацыі праіндаеўрапейскай мовы адносіліся да розных часоў, і міграцыі яе носьбітаў адбываліся не аднойчы.

У склад індаеўрапейскай моўнай сям'і ўваходзяць наступныя групы роднасных моў: індаіранская, аната-




Схема паходжання індаеўрапейскіх моў.

лійская, балта-славянская, германская, італа-кельцкая. Не ўваходзяць у групы асобныя мовы, да якіх адносяцца армянская, грэчаская, албанская. Гэта не значыць, што яны ніколі не адносіліся да пэўных груп. Іх ізаляваны характар сведчыць хутчэй пра тое, што такія групы зніклі яшчэ ў дагістарычныя часы. Сярод пералічаных індаеўрапейскіх груп некаторыя поўнасцю складаюцца з мёртвых моў (ад якіх захаваліся толькі пісьмовыя помнікі). Нам вядомы таксама мовы, якія збераглі толькі сваю назву або невялікую колькасць уласных імён. Так, анаталійская група складаецца з наступных мёртвых моў Малой Азіі: хецкай, лувійскай, палайскай і пазнейшых лідзійскай і лікійскай, якія ўзнiклі на аснове хецкай і лувійскай. Хецкая прадстаўлена клінапіснымі помнікамі, лувійская — клінапіснымі і іерагліфічнымі. У склад іншых індаеўрапейскіх моўных груп уваходзяць як жывыя, так і мёртвыя мовы. Індаіранская група складаецца з дзвюх блізкароднасных падгруп: індыйскай і іранскай. Індыйская прадстаўлена ў першую чаргу санскрытам, мёртвай мовай, ад якой захаваліся такія агульнавядомыя пісьмовыя помнікі, як «Рыгведа» — зборнік гімнаў, складзены яшчэ ў 2-м тысячагоддзі да н. э. і запісаны ў 1-м тысячагоддзі. Выдатнымі помнікамі класічнага санскрыту з'яўляюцца старажытнаіндыйскія эпічныя паэмы «Махабхарата» і «Рамаяна». Санскрытам карысталіся пазней адначасова з размоўнымі пракрытамі (сярэдне індыйскія мовы і дыялекты), на базе якіх узніклі сучасныя мовы Індыі: хіндзі, бенгалі, панджабі і інш. Асобнай падгрупай інда-іранскіх моў з'яўляюцца кафірскія і дардскія (горны рэгіён Афганістана і сумежныя рэгіёны). Іранская моўная еднасць таксама прадстаўлена мёртвымі і жывымі мовамі. Да мёртвых адносяцца авестыйская і старажытнаперсідская. Першая — гэта мова зборніка гімнаў «Авесты», другая — мова клінапісных помнікаў дынастыі Ахеменідаў. Ад мідыйскай (таксама мовы старажытных іранцаў) засталіся пераважна толькі ўласныя імёны і назвы плямён. З новых усходнеіранскіх моў можна назваць асецінскую (на Каўказе), афганскую (пушту), памірскія і інш. З заходнеіранскіх — персідскую, таджыкскую, курдскую і інш. Для гісторыі індаеўрапейскіх моў асабліва цікавасць уяўляе асецінская мова, якая з'яўляецца нашчадкам аланскай, а тая ў сваю чаргу — патомкам мовы скіфаў. Апошнія, як вядома, сыгралі важную ролю ў антычнай гісторыі і гісторыі станаўлення славян. Па дадзеных асецінскай мовы мы можам зараз аднавіць перыяд міжмоўных адносін старажытнай пары. Аналагічна індаіранскай групе з дзвюх падгруп складалася балта-славянская група: балтыйскай і славянскай (гл. **Балта-славянская праблема, Балтыйскія мовы, Славянскія мовы**). З пункту гледжання міжмоўных кантактаў з балта-славянскай групай была цесна звязана германская. Сярод германскіх моў вылучаюцца паўночнагерманскія (шведская, дацкая, нарвежская і ісландская), усходнегерманскія (да нас дайшлі толькі помнікі гоцкай мовы), заходнегерманскія (англійская, нямецкая, фламандская, галандская). Старажытнымі мёртвымі германскімі мовамі з'яўляюцца старажытнаісландская (мова «Старшай Эды» — зборніка міфалагічных тэкстаў) і гоцкая (мова біблії Вульфілы — першага перакладу евангельскіх тэкстаў на германскую мову). Італа-кельцкая група складаецца з італійскіх моў, з якіх толькі лацінская мова (зараз мёртвая) атрымала вялікае распаўсюджанне і на базе якой узніклі сучасныя раманскія мовы (французская, італьянская, іспанская, партугальская, румынская і інш.). Іншыя італійскія мовы (фаліская, оскская, умбрская) вядомы толькі з надпісаў. Ад кельцкіх моў да нашых дзён дайшла ірландская мова (яе продак старажытнаірландская, зафіксаваная ў помніках, напісаных агамскім алфавітам), а таксама брэтонская (на паўвостраве Брэтань у Францыі), шатландская.

Германскія і кельцкія мовы адыгралі пэўную ролю ў станаўленні славянскіх моў дагістарычнага перыяду, а для станаўлення літаратурных славянскіх моў гістарычнага перыяду важнымі сталі антычныя мовы: грэчаская — для паўднёвых і ўсходніх славян, лацінская — для заходніх, што тлумачыцца прыняццем хрысціянства і пісьменства адпаведна на грэка-праваслаўнай і рымска-каталіцкай асновах. Параўнанне індаеўрапейскіх моў (жывых і мёртвых) дазваляе, улічваючы заканамернасці іх суадносін, правесці рэканструкцыю праіндаеўрапейскай мовы, рэальнае існаванне якой адносяць да 4—3-га тысячагоддзяў да н. э. Ужо ў тыя далёкія часы гэта была мова флектыўнага ладу з фаналагічнай сістэмай, пабудаванай на аснове мінімальнага набору галосных (падсістэма з трох галосных). Яшчэ ў 19 ст. ўдалося вызначыць існаванне ў гэтай прамове некаторых паўгалосных, якія зніклі ва ўсіх жывых і мёртвых індаеўрапейскіх мовах, але пакінулі пасля сябе ўскосныя прыкметы. Калі ж у 20 ст. былі адкрыты і дэшыфраваны помнікі хецкай мовы, выявілася, што гэта так званыя ларынгальныя гукі, якія захаваліся толькі ў гэтай індаеўрапейскай мове. Таксама яшчэ ў 19 ст. выявілася супадзенне ва ўсіх старажытных індаеўрапейскіх мовах форм назоўнага і вінавальнага склонаў назоўнікаў ніякага роду, што тлумачыцца іх пасіўным значэннем параўнальна з назоўнікамі мужчынскага і жаночага роду. Такая методыка рэканструкцыі застаецца эфектыўнай толькі да пэўнага храналагічнага зрэзу. Калі ўлічыць дасягненні настратычнага мовазнаўства, выяўляецца, што флектыўнаму граматычнаму ладу індаеўрапейскай прамовы папярэднічаў іншы стан мовы, вызначыць які даволі цяжка. Але гэту мову ўжо нельга назваць індаеўрапейскай.

*Літ.:* Савченко А. Н. Сравнительная грамматика индоевропейских языков. М., 1974; Гамкрелидзе Т. В., Иванов В. В. Индоевропейский язык и индоевропейцы [Т.] 1—2. Тбилиси, 1984; Мартынов В. В. Славянская и индоевропейская аккомодация. Мн., 1968.

*В. У. Мартынаў.*

## ІНДЫВІДУАЛЬНАЕ І САЦЫЯЛЬНАЕ Ў МОВЕ

Мова служыць галоўным сродкам зносін паміж людзьмі, больш за тое, з яе ўлікам вылучаюцца розныя па велічыні сацыяльныя групоўкі, самай значнай з якіх з'яўляецца нацыя. Найбольш яскравая прыкмета нацыі — мова. Драбнейшыя сацыяльныя групоўкі (тэрытарыяльныя, класы, па роду заняткаў, прафесіі, інтарэсах і г. д.) знаходзяць адлюстраванне ў сацыяльным расслаенні мовы (дыялекты; сацыяльныя жаргоны; стылі; нармаваныя і гутарковыя, пісьмовыя і вусныя формы і інш.). Паколькі мова ўзнікла ў грамадстве і ўжываецца толькі ў ім, паколькі прычынай разнастайнай дыферэнцыяцыі мовы служыць дыферэнцыяцыя самога грамадства, можна ў цэлым гаварыць пра сацыяльны характар мовы, які фарміруецца пад стыхійным і свядомым уплывам грамадства. Пад стыхійным уздзеяннем грамадства мова падзяляецца на дыялекты, жаргоны, стылі і інш. Свядомы ўплыў грамадства на мову складае моўную палітыку грамадства: стварэнне пісьма, складанне літаратурных норм, змены і ўдасканальванні графікі, арфаграфіі, часткова граматычных правіл, барацьба за культуру мовы, фарміраванне тэрміналагічных сістэм і інш.

Мова як сродак зносін паміж людзьмі, як сродак накаплення, апрацоўкі і перадачы інфармацыі — цалкам сацыяльная з'ява. У той жа час мова ўжываецца асобнымі людзьмі, выражае іх думкі, пачуцці, адносіны да зместу, што перадаецца ёй у вуснай ці пісьмовай форме. Пры гэтым асобны чалавек уносіць у гэтую форму рысы свайго індывідуальнага характару, укладвае ў яе і ўспрымае ў ёй той сэнс, які звязаны з яго асабістым вопытам, уласнымі пачуццямі, выкарыстоўвае тыповыя для сябе моўныя сродкі, асаблівасці свайго вымаўлення, характэрныя для сябе паралінгвістычныя сродкі (жэсты, міміку і

інш.) і г. д. У пісьмовай форме рэалізацыі мовы, асабліва ў мастацкай літаратуры, пісьменнік або паэт выпрацоўвае і свой індывідуальны стыль, што дазваляе нам гаварыць пра мову Я. Купалы, М. Багдановіча, У. Караткевіча, В. Быкава і інш. Значыць, адной з найбольш адметных дыялектычных супярэчнасцей, што складаюць саму сутнасць мовы, служыць суіснаванне ў ёй адначасова сацыяльнага і індывідуальнага, а прапорцыі паміж імі пастаянна мяняюцца.

У камунікатыўны акт уваходзяць: адрасант (чалавек, які гаворыць, перадае інфармацыю); адрасат (чалавек, які слухае, прымае інфармацыю); сістэма знакаў, з дапамогай якіх перадаецца і ўспрымаецца інфармацыя (мова, яе сродкі); канал перадачы і ўспрыняцця інфармацыі (паветра, якое перадае гукі; папера, дзе напісаны літары і іншыя знакі; тэлефон; радыёмагнітныя хвалі і інш.); працэс кадзіравання, або ўменне выкарыстаць сістэму знакаў для перадачы інфармацыі; працэс дэкадзіравання, або ўменне расшыфраваць тую інфармацыю, якую перадаюць дадзеныя знакі. Агульная для адрасанта і адрасата мова з'яўляецца чыста сацыяльным кампанентам камунікатыўнага акта. У працэсе кадзіравання індывідуальныя думкі і пачуцці адрасанта пераводзяцца ў сацыяльна значымыя формы мовы, у час дэкадзіравання гэтыя формы пераводзяцца ва ўласныя думкі і пачуцці адрасата. І толькі канал сувязі служыць сацыяльна і індывідуальна нейтральным кампанентам камунікатыўнага акта.

Наяўнасць сацыяльнага і індывідуальнага ў мове выразна асэнсавана толькі ў пачатку 20 ст., што дазволіла размежаваць уласна мову і маўленне: мова як сацыяльны аспект моўнай дзейнасці, а маўленне — індывідуальны (швейцарскі лінгвіст Ф. дэ Сасюр). Маўленне падзяляецца на знешняе і ўнутранае. Знешняе маўленне мае дзве формы — вусную і пісьмовую, у якіх і суіснуюць сацыяльныя і індывідуальныя кампаненты мовы. Знешняя форма вуснага маўлення ў кожнага набывае свае ўласныя характарыстыкі (тэмбр, асаблівасці вымаўлення, гучнасці, хуткасці і інш.), а пісьмовая — асабісты почырк. Унутранае маўленне з'яўляецца прамежкавым звяном паміж мысленнем чалавека і мовай і служыць для пераводу яго думак з глыбінь свядомасці ў знешнія формы мовы, а таксама для пераводу ва ўласныя думкі пры ўспрыманні маўлення. Унутранае маўленне мае пераважна індывідуальны характар.

Унутраны план маўлення, або змест, звычайна дапаўняецца так званай канатацыяй (індывідуальнымі кампанентамі зместу, звязанымі з вопытам, узростам, адукацыяй, полам, псіхічным станам у момант маўлення, эрудыцыяй, прафесіяй, ступенню валодання мовай і іншымі асаблівасцямі чалавека). Індывідуумы кантактуюць з дапамогай сацыяльных кампанентаў мовы, асаблівасці маўлення кожнага з іх здольны прыводзіць да непаразумення.

Такім чынам, крайнія звенні ланцужка *унутранае маўленне — маўленне — мова* маюць адпаведна індывідуальную (унутранае маўленне) і сацыяльную (мова як сістэма знакаў) прыроду, а прамежкавае звяно — маўленне — сумяшчае ў сабе і сацыяльныя і індывідуальныя кампаненты.

*Літ.:* Якобсон Р. Лингвистика и поэтика // Структурализм: «За» и «против». М., 1975; Соссюр Ф. Курс общей лингвистики // Ф. де Соссюр. Труды по языкознанию. М., 1977; Выготский Л. С. Мышление и речь // Выготский Л. С. Собр. соч. М., 1982. Т. 2; Выгонная Л. Ц. Праблема індывідуальнага ў сацыяфанетыцы // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Падлужны А. І. Біялагічныя і сацыяльныя аспекты гукавога ладу мовы // Тамсама; Телия В. Н. Коннотативный аспект семантики номинативных единиц. М., 1986. *Б. А. Плотнікаў.*

## ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА АН БЕЛАРУСІ

Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі — навукова-даследчая ўстанова ў сістэме Акадэміі навук Беларусі па вывучэнні важнейшых праблем беларускага мовазнаўства. Інстытут быў створаны рашэннем Прэзідыума АН БССР 2 лістапада 1929 г. на базе мовазнаўчых кафедр і камісій, якія існавалі ў Інстытуце беларускай культуры. У склад яго тады ўваходзілі камісіі: тэрміналагічная, па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы, дыялекталагічная, па ўкладанні гістарычнага слоўніка, правапісная. Спачатку гэтыя камісіі праціягвалі даследчую работу па кірунках, якія былі вызначаны яшчэ ў Інстытуце беларускай культуры. Асноўнымі супрацоўнікамі інстытута тады былі П. Бузук, І. Бялькевіч, І. Воўк-Левановіч, А. Гурло, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, Б. Эпімах-Шыпіла. У рабоце камісій прымалі ўдзел таксама акадэмікі З. Жылуновіч (Цішка Гартны), І. Луцэвіч (Янка Купала), К. Міцкевіч (Якуб Колас) і іншыя.

У 1930 г. частка тагачасных вядучых мовазнаўцаў была беспадстаўна асуджана, а частка выслана за межы Беларусі. У выніку гэтага замарудзілася праца па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы і гістарычнага слоўніка, спынілася распрацоўка навуковай тэрміналогіі і падрыхтоўка даследаванняў па дыялекталогіі. На працягу 1930—34 гг. былі апублікаваны толькі 2 выпускі навуковай тэрміналогіі па педагогіцы і раслінаводстве, «Правапіс беларускай мовы», праект якога быў падрыхтаваны яшчэ ў Інстытуце беларускай культуры, зборнік «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапіса беларускай мовы» і зборнік па культуры мовы «Пісьменнік і мова».

У ліпені 1935 г. ЦК КП(б)Б прыняў пастанову аб зменах у структуры Акадэміі навук БССР, паводле якой быў створаны Інстытут літаратуры, мастацтва і мовы. Перад інстытутам была пастаўлена задача па падрыхтоўцы высокакваліфікаваных кадраў і хутчэйшаму выпуску падручніка беларускай мовы, слоўнікаў і дапаможніка па гісторыі беларускай літаратуры і мастацтва. Былі выдадзены «Беларуская граматыка. Марфалогія» (1936), «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй А. Александровіча (1937), «Сінтаксіс беларускай мовы» (1939) і «Курс сучаснай беларускай мовы» (1940). У секцыі мовы праводзілася падрыхтоўка вялікага беларуска-рускага слоўніка, працягвалася вывучэнне народных гаворак і далейшая работа па ўдасканаленні правапісу. Усе гэтыя матэрыялы загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Інстытут літаратуры, мастацтва і мовы быў адноўлены ў складзе трох секцый адразу ж пасля вызвалення Беларусі ў ліпені 1944 г. У мовазнаўчай секцыі праводзілася работа па ўкладанні руска-беларускага слоўніка, з канца 1940-х гадоў актывізавалася вывучэнне народных гаворак. У маі 1952 г. на базе мовазнаўчай секцыі быў створаны Інстытут мовазнаўства, якому ў 1956 г. нададзена імя Якуба Коласа. Першапачаткова ў Інстытуце было 5 сектараў: гісторыі беларускай мовы, беларускай дыялекталогіі, сучаснай беларускай літаратурнай мовы, лексікалогіі і лексікаграфіі і навуковай тэрміналогіі. У той час у Інстытуце працавала 20 супрацоўнікаў, з якіх толькі 5 мелі вучоную ступень кандыдата навук. Па меры пашырэння тэматыкі даследаванняў мянялася структура інстытута. У 1962 г. быў ліквідаваны сектар тэрміналогіі і адначасова створаны сектар агульнага і славянскага мовазнаўства, у 1969 г.— сектар эксперыментальнай фанетыкі і ў 1977 г.— сектар рускай мовы. У 1986 г. сектары ператвораны ў аддзелы.

У пасляваенны перыяд былі створаны слоўнікі, якія адыгралі вялікую ролю ў справе нармалізацыі слоўнікавага саставу літаратурнай мовы: «Руска-беларускі слоўнік» (1953), «Беларуска-рускі слоўнік» (1962). Упершыню ў гісторыі беларускага мовазнаўства створаны пяцітомны (у шасці кнігах) «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (1977—84). Новымі, дапоўненымі і перапрацаванымі выданнямі выйшлі двухтомныя «Рус-

ка-беларускі слоўнік» (1982, 1991) і «Беларуска-рускі слоўнік» (1988, 1989). Выдадзена таксама серыя слоўнікаў спецыяльнага прызначэння. З лексікалагічных даследаванняў варта адзначыць манаграфіі «Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову» М. І. Крукоўскага (1958), «Беларуская фразеалогія» А. С. Аксамітава (1978), «Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст.» А. М. Булыкі (1980), «Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд» А. Я. Баханькова (1982), «Беларуская навуковая тэрміналогія» Л. А. Антанюк (1987).

Вывучэнне беларускіх народных гаворак азнаменавалася выданнем комплексу дыялекталагічных даследаванняў («Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», 1963; «Нарысы па беларускай дыялекталогіі», 1964; «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак», 1968—69), за якія аўтарскі калектыў быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР 1971 г. Дыялектолагі правялі вялікую работу па зборы і апрацоўцы лексікі народных гаворак, вынікам чаго з'явілася выданне такіх прац, як 5-томныя «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa» (1977—84), «Тураўскі слоўнік» (1982—87) і серыя зборнікаў тэматычных падборак дыялектнай лексікі. Цяпер дыялектолагі Інстытута працуюць над стварэннем 5-томнага «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак», прымаюць удзел у распрацоўцы міжнародных тэм «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас» і «Лінгвістычны атлас Еўропы».

Па гісторыі беларускай мовы апублікаваны калектыўныя працы «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» (1957), «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы» (ч. 1—2, 1961—62), «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (т. 1—2, 1967—68), «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (1970), «Гістарычная марфалогія беларускай мовы» (1979), «Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст.» (1988), «Мова выданняў Францыска Скарыны» (1990). З 1960 г. гісторыкі беларускай мовы працуюць над стварэннем «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», які адлюстроўвае лексіку беларускага пісьменства 14—18 стст. У свет выйшла 12 выпускаў слоўніка (1982—93). Гісторыя слоўнікавага саставу беларускай мовы атрымлівае асвятленне ў «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы» (выйшла 7 тамоў, 1978—91).

Сучасная беларуская літаратурная мова атрымала асвятленне ў публікацыях «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы» («Марфалогія», 1957; «Сінтаксіс», 1959; «Фанетыка, арфаграфія, лексікалогія», 1961), у 2-томных выданнях «Граматыка беларускай мовы» («Марфалогія», 1962; «Сінтаксіс», 1966) і «Беларуская граматыка» («Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск», 1985, «Сінтаксіс», 1986), арфаграфічна-граматычны «Слоўнік беларускай мовы» (1987). Фанетычны лад беларускай мовы апісаны ў даследаваннях, якія падрыхтаваны з выкарыстаннем навейшых тэхнічных сродкаў: «Фаналагічная сістэма беларускай літаратурнай мовы» (1969) і «Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы» А. І. Падлужнага (1977), «Інтанацыя. Націск. Арфаэпія» Л. Ц. Выгоннай (1991), калектыўныя даследаванні «Галосныя беларускай мовы» (1975), «Фанетыка слова ў беларускай мове» (1983), «Фанетыка беларускай літаратурнай мовы» (1989) і інш.

Інстытут ажыццяўляе каардынацыю навукова-даследчай работы мовазнаўчых кафедр вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі. Пры ім ёсць аспірантура і дактарантура па падрыхтоўцы навуковых кадраў, спецыялізаваны савет па абароне доктарскіх дысертацый па беларускім і славянскім мовазнаўстве. Інстытут выдаваў «Працы» (8 выпускаў, 1954—61), з 1972 г. выдаецца штогоднік «Беларуская лінгвістыка».

У розныя часы Інстытут узначальвалі дырэктары: С. М. Некрашэвіч (1929—30), П. А. Бузук (1931—33), А. І. Александровіч (1934—35), В. Ф. Вольскі (1935—36), В. В. Барысенка (1937—52), К. К. Крапіва (1952—56), П. Ф. Глебка (1956—57), М. Р. Суднік (1957—82), А. І. Жураўскі (1983—88), А. І. Падлужны (з 1989). У Інстытуце працавалі правадзейныя члены АН БССР П. Ф. Глебка, М. М. Дурнаво, К. К. Крапіва, Я. Ю. Лёсік, С. М. Некрашэвіч, акадэмік АН БССР М. В. Бірыла. Цяпер працуюць члены-карэспандэнты АН Беларусі А. М. Булыка, А. І. Жураўскі, М. Р. Суднік, акадэмік АН Беларусі А. І. Падлужны.

*Літ.*: Жураўскі А. І., Крывіцкі А. А. Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР. Мн., 1979. *А. І. Жураўскі.*

## ІНТАНАЦЫЯ

Інтанацыя (лац. intonare гучна вымаўляць) — сукупнасць фанетычных сродкаў, якія служаць для афармлення фразы і асобных яе частак як адзінага цэлага, а таксама для больш дакладнай перадачы думак і пачуццяў асобы, якая гаворыць. З дапамогай інтанацыі вуснае вымаўленне арганізоўваецца так, каб яго лепш было ўспрымаць, без інтанацыі яно не існуе наогул. Калі часам гаворыцца, што чалавек «чытае без інтанацыі», гэта толькі абазначае, што ён чытае з невыразнай, аднастайнай інтанацыяй, якая не адпавядае тэксту і робіць яго ўспрыманне цяжкім. Моўнае развіццё чалавека пачынаецца з авалодання інтанацыйнай сістэмай роднай мовы. Псіхолагі адзначаюць вельмі ранняе ўспрыманне дзецьмі інтанацыі дарослых, лічаць, што да канца першага года жыцця дзіця ўжо засвойвае асноўныя рысы інтанацыйна-меладычнай структуры мовы.

Інтанацыя — з'ява, простая для ўспрымання, але яна характарызуецца цэлым шэрагам прыкмет, уласцівых фанетычным адзінкам: меладыкай, інтэнсіўнасцю, тэмбрам, адпаведнай працягласцю, пэўным размяшчэннем націску і яго рознай сілай у залежнасці ад месца слова ў фразе, а таксама паўзамі. Пры дапамозе гэтых акустычных сродкаў асоба, якая гаворыць, адны часткі выказвання звязвае паміж сабой, а другія — раздзяляе. Пры гэтым яна можа свядома падкрэсліць, вылучыць нешта з выказанага і зрабіць астатнюю частку паведамлення менш прыкметнай. Адначасова той, хто гаворыць, праз інтанацыю перадае свае адносіны да інфармацыі, змешчанай у паведамленні. Самым простым сродкам перадачы інтанацыі з'яўляюцца паўзы, якія ў вусным маўленні абазначаюць перапынак гучання. У старажытных настаўленнях для перапісчыкаў выкарыстоўваліся тры графічныя знакі, якія абазначалі розныя паўзы ў канцы выкладання, так званыя *слогна, сцішыца, атрыкаль*. Зараз перарывы ў гучанні на пісьме перадаюцца пунктуацыйнымі знакамі, а таксама раздзельным напісаннем слоў.

Калі б словы пісаліся разам, гэта было б нязручна для ўспрымання, а ў некаторых выпадках магло б прывесці да непаразумення. Параўнайце два рады наступных слоў: *напаўсон і напаў сон, напаўп'яны і напаў п'яны, напаўсур'ёзна і напаў сур'ёзна.* Розніца ў значэннях складаных слоў і словазлучэнняў перадаецца на пісьме з дапамогай злітнага і раздзельнага напісання. У беларускім маўленні спалучэнні слоў інтанацыйна афармляюцца інакш, чым адно слова. Дзейнік і выказнік раздзяляюцца паўзай або з дапамогай рознага тону вымаўлення кожнага слова. Гэтага не назіраецца, калі вымаўляюцца складаныя словы, амаграфічныя са спалучэннямі.

У падручніках выразнага чытання паўзы абазначаюцца вертыкальнай рысай, адной, калі паўза невялікая, і дзвюма, калі паўза большая. Паўзы ў любым выказванні павінны займаць дакладна вызначанае месца, інакш можа ўзнікнуць непаразуменне. Параўнайце фразы, у якіх разбіўка на паўзы адпавядае і не адпавядае сэнсу: *У адным сяле // (не важна — / дзе) // Хадзіў Баран / у чарадзе* (К. Крапіва) і *У адным/ сяле не важна // дзе хадзіў // Баран у чарадзе.* Часам розная разбіўка фразы на часткі паўзамі дае магчымасць пазбегнуць двухсэнсавасці: *Ціха*

*паклікаў / знаёмы басок / іх новага начальніка штаба* і *Ціха паклікаў / знаёмы басок іх новага начальніка штаба.* Калі чалавек хвалюецца, колькасць паўз у яго маўленні павялічваецца. Моўнае выказванне робіцца больш «ірваным», амаль кожнае слова гучыць паасобку, незалежна ад іншых: *Я...// проста...// не ведаю, // як маці // гэту тэлеграму // ...паказаць.* Адасабленне пры чытанні пэўных членаў сказа, асабліва дададных, пры дапамозе паўз прыводзіць да іх сэнсавага вылучэння. Пры гэтым вылучаная група слоў набывае характэрную інтанацыю самастойнага паведамлення: *Толькі / зіму я не люблю* і *Толькі зіму / я не люблю.*

Інтэрвалы паміж словамі дапамагаюць лепш зразумець сэнс напісанага, робяць тэкст зручнейшым для ўспрымання. Параўнайце дзве фразы з пункту гледжання лёгкасці раскрыцця іх сэнсу: *Імгненнегэтавечнасцьбоянозаўсёдызтабоюкалібтыніўспомніўпраяго* і *Імгненне — гэта вечнасць, бо яно заўсёды з табою, калі б ты ні ўспомніў пра яго* (Я. Сіпакоў). Пры чытанні гэтага сказа паўз будзе менш, чым слоў, але больш, чым знакаў прыпынку: *Імгненне — // гэта вечнасць, // бо яно / заўсёды з табою, // калі б ты / ні ўспомніў пра яго //.* Такім чынам, інтэрвалы паміж словамі на пісьме неабавязкова абазначаюць паўзы пры чытанні.

Кожны з фанетычных сродкаў, якія ў сукупнасці ўтвараюць інтанацыю фразы, вельмі цяжка адасобіць, бо ў маўленні яны дзейнічаюць разам. Да паўз як сродку ўтварэння пэўнай інтанацыі найбліжэй стаіць тэмп маўлення. Калі чалавек гаворыць хутка, то паўзы ў яго маўленні амаль адсутнічаюць *(Не разумею, Лена, я цябе!* Фраза вымаўляецца ў хуткім тэмпе, без паўз). Для сэнсавага вылучэння слоў або словазлучэнняў звычайна выкарыстоўваецца тэмп вымаўлення. «Незвычайнае» месцазнаходжанне даданых членаў сказа вельмі часта суправаджаецца іх інтанацыйным вылучэннем, у тым ліку з дапамогай часавых паказчыкаў. Дапаўненне вымаўляецца больш павольна тады, калі яно знаходзіцца ў прэпазіцыі перад выказнікам, азначэнне ж — у постпазіцыі пасля слова, да якога яно дапасуецца: *Дыплом / я заслужыў, здаецца ж, галавою* (К. Крапіва) і *Я заслужыў дыплом, здаецца ж, галавою; Поруч з Ганнаю стаяў загарэлы, / абветраны чалавек* і *Поруч з Ганнаю стаяў чалавек — / загарэлы, / абветраны...* (Я. Скрыган). Фразы, якія не маюць лексічна выражанага адмоўя, але адмоўныя па змесце, звычайна больш працяглыя. Гэтыя фразы вымаўляюцца больш павольна: *Ты пры-ы-йдзеш* (іранічна, 'цябе не дачакаешся').

Для вылучэння важнага і менш важнага ў паведамленні асобы, якая гаворыць, ва ўсіх усходнеславянскіх мовах выкарыстоўваецца змяненне тэмпу маўлення. Звычайна важная інфармацыя вымаўляецца павольна: *Галоўнае — жыць сумленна, каб ноччу спаць спакойна* (А. Камароўскі). Павелічэнне працягласці паўзы ў вымаўленай у павольным тэмпе частцы фразы нярэдка надае значэнне проціпастаўлення або важнага ўдакладнення: *Каму ён належыць... // не было відно* (К. Кірэенка).

Сіла гучання асобных слоў у маўленні (інтэнсіўнасць) таксама з'яўляецца элементам інтанацыі. Яна выкарыстоўваецца для акцэнтнага вылучэння пэўных слоў або іх спалучэнняў.

Калі паслядоўна рабіць больш моцным націск на адным са слоў фразы, то яна набывае розны сэнс. Напрыклад:

*Мы̋ сустракаемся заўтра ў тэатры?*
**(Мы ці яны?)**

*Мы сустрака̋емся заўтра ў тэатры?*
**(Сустракаемся ці не?)**

*Мы сустракаемся за̋ўтра ў тэатры?*
**(Заўтра ці сёння?)**

*Мы сустракаемся заўтра ў тэа̋тры?*
**(У тэатры ці не ў тэатры?)**

Вылучанае моцным націскам слова з'яўляецца цэнтрам інтанацыйнай канструкцыі, у сувязі з якім рытмічна і меладычна арганізуюцца ўсе астатнія словы.

Падкрэсліванне сілай гучання ўсіх сказаных слоў надае выказванню адценне катэгарычнасці:

*Ты̋, // Ле̋на, / гавары̋, / ды не загаво̋рвайся.*

Звычайна апорныя для далейшых разважанняў лексемы вымаўляюцца не толькі павольней, але і больш гучна:

*Мала̋нкі забяспечваюць зямлю адмоўнымі зарадамі. Зі̋мнія навальніцы / бываюць вельмі рэдка.*

Пры авалоданні выразным чытаннем важна ўсвядоміць, што гучнасць — толькі адзін з элементаў інтанацыі. Таму недапушчальна злоўжываць гэтым сродкам, бо нават самае вышэйшае напружанне чалавечых пачуццяў можна перадаць не пераходзячы на крык.

Сярод усіх прасадычных сродкаў, якія ўтвараюць інтанацыю, найбольш важным з'яўляецца мелодыка. Таму ў тлумачальных слоўніках слова *інтанацыя* вызначаецца як рытміка-меладычны лад мовы, чаргаванне павышэнняў і паніжэнняў тону пры вымаўленні. Усе спробы зафіксаваць інтанацыю фразы на пісьме звязаны з адлюстраваннем таго, што розныя склады вымаўляюцца з рознай вышынёю. Змены ў мелодыцы паказваюць з дапамогай схем, на якіх адзначаюцца розныя танальныя ўзроўні. Можна перадаць павышэнне і паніжэнне тону размяшчэннем складоў на розных радках і лічыць, што ніжні радок абазначае самы нізкі тон, а верхні — самы высокі. Напрыклад:

*ды̋*
*е-*
*ку-* *хаць?*

*гэ̋та*
*вось* *чы-*
*А* *таў?*

Больш падрабязна малюнак мелодыкі адлюстроўваецца пры выкарыстанні спецыяльных абазначэнняў:

*к-у-д-ы е-е-х-а-ць?*

*Ку-ды̂ е-ха̀ць?*

На прыведзеных схемах відаць, што націскны склад слова *куды* вымаўляецца з больш высокім тонам, рухавасць якога відна нават на працягу вымаўлення аднаго галоснага [ы]. Акустычна-меладычныя характарыстыкі маўлення абумоўлены змяненнем у часе самай нізкай складаючай у спектры гука — частатой асноўнага тону (ЧАТ), якая характарызуе перыядычныя і квазіперыядычныя ваганні. У гуках мовы поўны перыяд вагання адпавядае поўнаму цыклу работы галасавых звязак. ЧАТ галосных і звонкіх зычных у маўленні можа вар'іраваць у межах ад 50 Гц да 500 Гц і яшчэ ў больш значных межах — пры спяванні. Нізкі тон мужчынскага голасу набліжаецца да 50 Гц, а высокія тоны жаночага і дзіцячых галасоў — да 500 Гц. На працягу маўлення ЧАТ пастаянна змяняецца. Гэтыя змены ў часе маюць складаную структуру. Нават суседнія перыяды асноўнага тону найчасцей маюць розную велічыню. На фоне павольных і плаўных у маўленні існуюць хуткія і параўнальна невялікія паводле дыяпазону змяненні ЧАТ.

Галоўным для інтанацыі з'яўляецца контур ЧАТ, які рэалізуецца ў межах складоў, слоў і фраз. Адносна яго гаворыцца аб мелодыцы, і толькі гэтыя танальныя змены ўспрымаюцца як меладычныя і перадаюць інтанацыйную інфармацыю. Адчуванне вышыні гука залежыць не толькі ад частаты асноўнага тону, але і звязана з яго іншымі характарыстыкамі: інтэнсіўнасцю, працягласцю і тэмбрам. Але асноўны тон з'яўляецца вызначальным для вышыні гучання. Максімальны ўзровень частаты асноўнага тону ў беларускай фразе (безадносна да яе камунікатыўнага тыпу) больш нізкі, а дыяпазон частаты асноўнага тону больш вузкі ў параўнанні з максімальным узроўнем і дыяпазонам частаты асноўнага тону ў рускай фразе.

Для выражэння разнастайных моўных значэнняў і дасягнення шматлікіх камунікатыўных мэт выкарыстоўваюцца змены напрамку руху асноўнага тону. Гэтых змен многа. Так, тон можа быць роўным ‾ ‾; сыходным ╲; узыходным ╱; роўна-ўзыходным ‿╱; роўна-сыходным ‾╲ ‾╲; узыходна-сыходным ╱╲; сыходна-ўзыходным ╲╱.

Роўны тон выкарыстоўваецца ў незавершаных выказваннях і агульных пытаннях: *Няўжо ты яшчэ не разумееш?*

Сыходны тон літаратурнай мовы характарызуецца нярэзкім паніжэннем вышыні голасу на націскным складзе. Просты сыходны тон у беларускай мове звычайна назіраецца ў фразах, якія маюць значэнне пэўнасці, катэгарычнасці, завершанасці. Ён ужываецца ў сцверджаннях, спецыяльных і альтэрнатыўных пытаннях, загадах, воклічах, агульных пытаннях, а таксама ў просьбах і запрашэннях.

*Гэта ты чытаў?*

*Пой-дзём разам!*

*Нарэш-це, скон-чылі.*

Узыходны тон перадае няўпэўненасць, некатэгарычнасць, незавершанасць. Ён мае роўна-ўзыходную («увагнутую»), лінейную ўзыходна-сыходную («выпуклую») і ўзыходна-роўную канфігурацыю. Змяненне вышыні голасу асабліва выразнае ў націскной і паслянаціскной структуры тону.

*Ён па-а-бя-цаў?*

*Не-вя-до-ма!*

Параўнайце значэнне аднаслоўнай фразы, вымаўленай з узыходным рухам тону, з той самай, якая мае сыходны рух.

*Пой-дзём?* (пытанне). *Пойдзем.* (сцверджанне).

Узыходна-сыходны тон ужываецца ў эмацыянальных сцверджаннях для выражэння кантрасту, пратэсту, моцнага ўражання. Ён таксама сустракаецца ў агульных пытаннях з вялікай ступенню ўпэўненасці, у адказах, якія мяркуюцца або вядомыя:

*Які цу-доў-ны дзень!*

*Ма-ці ў хату пай-шла?*

Сыходна-ўзыходны тон чуем у некаторых відах агульнага пытання і звароту. У агульных пытаннях адначасова са значэннем зацікаўленасці ён перадае намер гаворачага не надакучваць.

*Ка-лі прый-дзе той час?!*

*У-чо-ра ж ты за-хо-дзіў?*

У беларускай мове вядомы розныя тыпы інтанацыйных канструкцый, кожны з якіх мае свае фанетычныя якасці і здольнасць перадаваць сэнсавыя адрозненні сказаў з аднолькавым сінтаксічным і лексічным складам (*Прыйдзеш заўтра.— Прыйдзеш заўтра? — Прыйдзеш заўтра!*). Кожная інтанацыйная канструкцыя мае свой цэнтр — склад, на якім пачынаюць змяняцца кампаненты інтанацыі. Адносна яго арганізуецца пераднаціскная і паслянаціскная часткі фразы. Напрыклад, у фразе *Прыйдзеш заўтра* (сцверджанне) інтанацыйным цэнтрам з'яўляецца націскны склад *заў-* з другога слова. Першае слова выступае як пераднаціскная частка інтанацыйнай канструкцыі (хоць у слове *прыйдзеш* ёсць слоўны націск), а другі склад другога слова — паслянаціскная частка.

Інтанацыйныя канструкцыі розняцца паміж сабой у залежнасці ад змяненняў руху тону, а таксама напружанасці і працяглсці гучання галосных у цэнтры, а таксама пераднаціскной і паслянаціскной частках. У беларускай літаратурнай мове адрозніваюць 4 тыпы інтанацыйных канструкцый, дзякуючы якім пры выкарыстанні адных і тых лексічна-граматычных сродкаў можна перадаць значэнні, не сумяшчальныя ў адным кантэксце. Напрыклад, 1-я інтанацыйная канструкцыя звычайна служыць для выражэння завершанай думкі пры паведамленні. Пераднаціскная частка ў ёй вымаўляецца з сярэднім тонам, а ў націскной і паслянаціскной частках адбываецца роўнае паніжэнне тону:

*Прыйдзеш заўтра.* Націскны склад у цэнтры гэтай канструкцыі больш працяглы і не вельмі напружаны.

На пісьме інтанацыя ў пэўнай ступені перадаецца з дапамогай знакаў прыпынку і іншых графічных сродкаў (падкрэсліванне слоў, розных шрыфтоў).

З дапамогай пунктуацыйных знакаў вылучаюцца сэнсава і сінтаксічна звязаныя часткі выказвання. Кропка сведчыць пра тое, што вылучаны ўрывак — закончанае паведамленне. Коска паказвае, што думка гаворачага не закончана, як правіла, яна суправаджаецца інтанацыяй незавершанасці (параўнаем:

*Трэба вучыцца, / працаваць і адпачываць* і *Трэба вучыцца працаваць і адпачываць*)

Двукроп'е таксама перадае незавершанасць, але такую, што адрозніваецца ад той, якую паказвае коска. Звычайна мяркуецца, што пасля двукроп'я будзе ісці ўдакладненне або тлумачэнне папярэдняга выказвання (параўнайце: *Мужчына называецца: палкі дроў не ўсячэ* і *Мужчына называецца, але палкі дроў не ўсячэ*).

Шматкроп'е абазначае, што мова па розных прычынах перапынена, паведамленне не закончана, што трэба зрабіць паўзу. Вельмі трапна назваў шматкроп'е ў сваёй граматыцы Б. А. Тарашкевіч — «недаказ»

*(А ты мне... Не крыўдзі... мяне)*

Сказы з працяжнікам пры агучванні звычайна афармляюцца як фразы з паўзай і са змяненнем руху тону голасу пасля гэтай паўзы. Значная інтанацыйная нагрузка працяжніка як знака прыпынку садзейнічае таму, што ім часта карыстаюцца аўтары для перадачы асаблівасцей тэксту:

*Жыццё — яно камедыя і драма: То ўсмешкамі, то громам паласнё.*

(Я. Янішчыц).

Інтанацыя дапамагае пры стварэнні мастацкага вобраза на сцэне. Яна — адзін з важных сродкаў сэнсавай і эмацыянальнай выразнасці ў вершаванай мове. Увага да інтанацыі неабходна пры авалоданні навыкамі выразнага чытання і для павышэння культуры мовы.

*Літ.*: Фанетыка беларускай літаратурнай мовы. Мн. 1989; Николаева Т. М. Фразовая интонация славянских языков. М., 1977; Типологія інтонації мовлення. Київ, 1977; Фанетыка слова ў беларускай мове. Мн., 1983; Метлюк А. А. Взаимодействие просодических систем в речи билингва. Мн., 1986; Выгонная Л. Ц. Інтанацыя. Націск. Арфаэпія. Мн., 1991.

*Л. Ц. Выгонная.*

## ІНФАРМАЦЫЯ

Першапачатковы сэнс гэтага тэрміна звязаны з працэсамі камунікацыі ў грамадстве: са звесткамі, якія адны людзі перадаюць другім з дапамогай пісьмовых, вусных ці іншых знакаў, а таксама з самім працэсам перадачы і атрымання такіх звестак. У наш час у сістэму камунікацыі ўключаны і разнастайныя тэхнічныя сродкі (аўтаматычныя адказнікі па тэлефоне на чыгуначных станцыях і ў аэрапортах, ЭВМ, робаты і інш.). У сённяшнім жыцці людзей у сувязі з лавінападобным нарастаннем звестак праблемы даследавання ўласцівасцей інфармацыі, яе дакладнай апрацоўкі, усеба-

ковага ўліку і правільнага ўспрымання маюць агульначалавечае і жыццёвае значэнне.

Развіццё інфармацыйных даследаванняў звязана са станаўленнем кібернетыкі, удасканаленнем тэхнікі сувязі, найперш распрацоўкай яе статыстычных аспектаў перадачы, успрымання і апрацоўкі моўнай інфармацыі. З гэтага пункту гледжання інфармацыя звязана з частотнасцю перадачы і ўспрыняцця знакаў. Знакі з большай частатой менш нечаканыя і нясуць меншую інфармацыю і наадварот, менш частотныя знакі больш нечаканыя і нясуць больш інфармацыі. Інфармацыйная нагрузка матэрыяльных кампанентаў, у прыватнасці мовы, вымяраецца з дапамогай лагарыфма: $H = n \log S$; дзе H — колькасць інфармацыі, n — колькасць выбраных знакаў, S — колькасць знакаў усяго рэпертуару, ці набору. Знакам тут лічыцца любы сігнал, які перадаецца (літара, слова, сказ), а паняцце інфармацыйнай значымасці не звязана з сэнсам знакаў.

Адным з цэнтральных у к і б е р н е т ы ц ы з'яўляецца паняцце аб маркаўскім працэсе, ці аб маркаўскіх ланцугах (названа ў 1913 г. па прозвішчы рускага матэматыка А. А. Маркава): друкаваны тэкст падпарадкоўваецца матэматычным заканамернасцям, г. зн. чым больш моўных элементаў мы ведаем, тым лягчэй прагназіраваць астатнія элементы тэксту.

Інфармацыйная ёмістасць моў можа вымярацца статыстычна. З дапамогай ЭВМ устаноўлена, што натуральныя мовы з'яўляюцца збыткоўнымі прыблізна на 80 %. Многія з'явы ў мове неаднаразова дубліруюцца. Так, у беларускім сказе *Усе гэтыя людзі, якія жывуць тут, працуюць на адным прадпрыемстве* множны лік слова *людзі* выражаецца шэсць разоў (множным лікам слоў *усе, гэтыя, людзі, якія, жывуць, працуюць*). Збыткоўнасць у мове выпрацавана стыхійна для ўстойлівасці функцыяніравання мовы, для барацьбы з рознымі «шумамі», ці перашкодамі на шляху перадачы інфармацыі. У тэорыі інфармацыі, ці інфарматыцы, інфармацыя звязана матэматычнымі адносінамі з энтрапіяй (мерай неўпарадкаванасці выпадковых аб'ектаў): чым больш накоплена інфармацыі аб дадзеных аб'ектах, тым меншая энтрапія, і наадварот.

У м о в а з н а ў с т в е інфармацыя разглядаецца найчасцей у якасці значнасці, шырыні і колькасці значэння моўных адзінак, іх семантычнай ролі ў камунікацыі. З гэтага пункту гледжання адзначаецца адваротная у параўнанні з кібернетычным падыходам да інфармацыі тэндэнцыя: чым часцей сустракаецца моўная адзінка, тым больш мае яна значэнняў, большую семантычную нагрузку выконвае, больш нясе інфармацыі. Так, сярод 100 000 слоў, якія ўжываюцца пры вусных размовах па тэлефоне, 50 % прыпадае прыблізна на 30 розных слоў. Менавіта яны выконваюць асноўную інфармацыйную ролю ў такіх размовах. Інфармацыйную значнасць маюць і частоты моўных адзінак, і іх месца ў другой моўнай адзінцы. Так, літары, якія размешчаны ў пачатку слова, маюць большую значнасць для яго апазнання, чым канечныя. Падобная заканамернасць і пры размеркаванні слоў у сказе: чым бліжэй да пачатку слова ў сказе, тым большая яго інфармацыйная роля.

Такім чынам, калі з кібернетычнага боку інфармацыя моўнага знака разглядаецца як мера яго чаканасці, то з лінгвістычнага боку — і як мера асэнсаванасці тэксту, дзе ўжываюцца дадзеныя моўныя знакі.

*Літ.*: П и р с Дж. Символы, сигналы, шумы: Закономерности и процессы передачи информации. М., 1967; П и о т р о в с к и й Р. Г. Информационные измерения языка. Л., 1968; Г а л ь п е р и н И. Р. Информативность единиц языка. М., 1974; М а р т ы н о в В. В. Семиологические основы информатики. Мн., 1974.

*Б. А. Плотнікаў.*

## ІНФІНІТЫЎ

Інфінітыў, або пачатковая, ці неазначаная (раней недакладна называлася неазначальная), форма — адна з чатырох асноўных дзеяслоўных форм — абазначае паняцце дзеяння (або працэсу) у найбольш агульным выглядзе, не ўказваючы на асобу, лік, час, служыць для называння гэтага дзеяння і ў гэтым сэнсе можа прыраўноўвацца да формы назоўнага склону адзіночнага ліку скланяльных часцін мовы. На гэтай падставе ў слоўніках многіх моў у якасці загаловачнага слова слоўнікавых артыкулаў, прысвечаных дзеяслову, падаецца форма інфінітыва.

Паводле паходжання — гэта застылая, нязменная форма былога аддзеяслоўнага назоўніка, які потым уключыўся ў сістэму формазмянення дзеясловаў. Інфінітыў утварае самастойную прыватную парадыгму, якая складаецца з адной словаформы і супрацьстаўляецца ўсім астатнім прыватным парадыгмам дзеяслова — асабовым формам, дзееприметніку і дзеепрыслоўю. Паказчыкам словаформы інфінітыва з'яўляецца службовая марфема, якую звычайна лічаць фармаўтваральным суфіксам (як *-л-* для прошлага часу, *-ей* або *-ш* для кампаратыва, *-учы, -ючы* — для дзеепрыслоўя).

У сучаснай беларускай мове для ўтварэння інфінітыва ўжываюцца суфіксы *-ць, -ці, -чы*, якія паходзяць са старажытнага *-ти* (з пераходам *т'* у *ц'* — стратай *и* ў дзеясловах з асновай на галосны: *чыта-ць, сея-ць, гавары-ць*, але *нес-ці, бег-чы, вез-ці, церці*). Працэс страты канцавога *-і* быў вельмі працяглы, а таму яшчэ і сёння ў асобных гаворках (напрыклад, на Гродзеншчыне) можна сустрэць формы *рабіці, маўчаці*. Замена *-ць* на *-ці* і наадварот у сучаснай літаратурнай мове магчыма толькі ў мове паэзіі, параўнайце: *Не давайце гадам сілы над сабою распасцерць...* (Я. Купала); *Гэта маці дзяцей ратаваці з дубровы ідзе* (А. Куляшоў).

У выніку гістарычнага чаргавання канцавыя *д, т* у аснове перад суфіксальным *т* (суфікс інфінітыва *-ти*) перайшлі ў *с*, і таму з *ид-ти, мет-ти* атрымаліся формы *ісці, месці*, у якіх фіналь *-сці* магла ўспрымацца як інфінітыўны суфікс, а таму ў гаворках з'явіліся формы інфінітыва тыпу *раўсці, сапсці, грабсці, дзяўбсці* і пад., якія зрэдку сустракаюцца і ў мове мастацкай літаратуры. Аднак гэта форма не замацавалася ў якасці літаратурнай нормы.

Старажытнае чаргаванне прывяло да змены спалучэнняў *гт, кт* у *ч*, у выніку з'явіліся формы інфінітываў *стричи* (з *стриг-ти*), *печи* (з *пек-ти*), *сечи* (з *сек-ти*), якія пасля страты канцавога *-и* набылі выгляд *стричь, печь, сечь* (у такім выглядзе яны і засталіся ў рускай мове). У беларускай мове захавалася толькі адна словаформа такога тыпу — *сеч*, ды і яна ўспрымаецца як гутарковая ці дыялектная.

У старой беларускай мове рана пачаўся працэс аднаўлення заднеязычнага *г* у інфінітывах, і таму замацаваліся ў якасці нормы інфінітывы з адноўленым *г*: *стрыгчы, бегчы, берагчы* і пад. (зычны *к* не аднаўляўся, і засталіся формы *пячы, сячы, таўчы, цячы* і пад.). Так у беларускай мове развіваўся інфінітыўны суфікс *-чы*.

Форма інфінітыва звычайна ўтвараецца ад асновы прошлага часу (*пісаў — пісаць, касіў — касіць, стукнуў — стукнуць*). Асобныя дзеясловы, у якіх суфікс *-ну-* выпадае ў аснове прошлага часу (*сох, мок, мёрз* і інш.), захоўваюць гэты суфікс у інфінітыве: *сохнуць, мокнуць, мёрзнуць, пахнуць* і пад. Інфінітыў *ісці* ўтварыўся ад асновы цяперашняга часу *ід-у→ід-ці→ісці*.

Інфінітыў зваротных дзеясловаў утвараецца далучэннем постфікса *-ся*, які размяшчаецца пасля інфінітыўнага *-ці, -чы*, а зліўшыся з інфінітыўным суфіксам *-ць*, постфікс *-ся* ўтварае фіналь *-цца; прасці — прасціся, церці — церціся, берагчы — берагчыся*, але *чытаць — чытацца, гаварыць — гаварыцца*.

Утварэнне інфінітыва вызначаецца высокай ступенню рэгулярнасці: у беларускай мове практычна не існуе асабовых форм, якія б не мелі адпаведнай формы інфінітыва (хоць у рускай мове цяжка ўтварыць інфінітыў да форм *гряду, грядёт, грядущий*). Няма таксама і інфінітываў, якім не адпавядалі б асабовыя формы. Выключэнне складаюць хіба што словы *відаць, чуваць*,

якія, захоўваючы форму дзеяслова, фактычна перайшлі ў іншы лексіка-граматычны разрад — прэдыкатываў (слоў т. зв. катэгорыі стану, або прэдыкатыўных прыслоўяў).

Будучы дзеяслоўнай словаформай, інфінітыў захоўвае тое ж кіраванне, што і ўсе астатнія словаформы дзеяслова: *пішу пісьмо алоўкам на паперы, пішы пісьмо алоўкам на паперы, пішучы пісьмо алоўкам на паперы, пісаць пісьмо алоўкам на паперы.* Выступаючы ў якасці залежнага слова ў словазлучэнні, інфінітыў прымыкае да галоўнага слова: *пайшлі працаваць.* Інфінітыў мае катэгорыі трывання *(ехаць — прыехаць)*, стану *(будаваць — будавацца)*, пераходнасці — непераходнасці *(садзіць дрэвы — бегчы ў лес).*

Інфінітыў можа выконваць ролю любога члена сказа, напрыклад можа быць дзейнікам: *У бор хадзіць Алёшку не навіна* (А. Якімовіч); выказнікам: *Алеся — бегчы* (П. Трус); часткай састаўнога выказніка: *любілі слухаць, умеў адпачываць*; дапаўненнем: *Маці падала снедаць, а сама пайшла ў горад* (Ц. Гартны); азначэннем: *Гарэў ахвотай узяцца за сяўбу* (Я. Колас); акалічнасцю: *Выйшлі людзі светлай раніцай на Дрысвяцкае на возера будаваць электрастанцыю* (А. Русак).

*Літ.*: Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; Янкоўскі Ф. М. Гістарычная граматыка беларускай мовы. Ч. 2. Мн., 1977; Мацкевіч Ю. Ф. Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове. Мн., 1959.

*П. П. Шуба.*

---

**Й** — *адзінаццатая літара беларускага алфавіта. Утворана шляхам далучэння дыякрытычнага знака да літары И, якая паходзіць з кірыліцкай Н («іжэ), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай Н («эта»). Мае назву «і кароткае» (назва ўведзена Я. К. Гротам). У старабеларускай графіцы ўжывалася з канца 16 ст. (у рускай з 1735), абазначала гук* й *пераважна ў друкаваных кнігах* (злодейство, нехай, тайна). *У рукапісах 17 ст. ўжывалася радзей, паралельна з традыцыйнымі сродкамі абазначэння гука* й — *літарай И і паерыкам* ($^{s}$): войско — воиско — во$^{s}$ско; хитрый — хитрыи — хитры$^{s}$. *Лічбавага значэння не мела. У сучаснай беларускай мове абазначае санорна-шумны мяккі шчылінны сярэднеязычны зычны гук* й пасля галосных (буйны, край, свой, чайка — і *нескладовае). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму.*

*А. М. Булыка.*

К Устаў 11 ст.

К Паўустаў 15 ст.

К Паўустаў 16 ст.

К Паўустаў 17 ст.

К Скорапіс 15 ст.

К к Скорапіс 16 ст.

К к Скорапіс 17 ст.

К к Ф.Скарыны 16 ст.

К к Статута ВКЛ 1588 г.

К к Друкаваная 17 ст.

К Грамадзянская 18 ст.

*З легендаў і казак былых пакаленняў,*
*З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,*
*З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,*
*З грымучага ззяння бурлівых крыніц,*
*З птушынага шчэбету, шуму дубровы,*
*І з гора, і з радасці, і з усяго*
*Таго, што лягло назаўсёды ў аснову*
*Святыні народа, бяссмерця яго,—*
*Ты выткана, дзіўная родная мова.*

Максім Танк



**К** — *дванаццатая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай К («кака»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай К («капа»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* к, к' (карта, килимъ — *«к'іл'ім»). Мела таксама лічбавае значэнне «дваццаць». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. З часоў Ф. Скарыны стала адрозніваецца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумныя глухія выбухныя заднеязычныя зычныя гукі* к, к' (колас, сакавік — *«сакав'ік»,* тонкі — *«тонк'і»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (КНР). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «адзінаццаты» (група «К»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (пункт № 3к).*

*А. М. Булыка.*

## КАГАНЕЦ КАРУСЬ



Пад псеўданімам Карусь Каганец увайшоў у гісторыю беларускай культуры грамадскі дзеяч, драматург, паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, аўтар першых беларускіх падручнікаў, перакладчык, мовазнаўца і фалькларыст, мастак і скульптар Казімір Карлавіч Кастравіцкі. Нарадзіўся ён 10 лютага 1868 г. ў г. Табольску, куды яго бацька быў высланы за ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. У 1874 г. Кастравіцкім дазволілі вярнуцца на радзіму. Яны пасяліліся ў в. Засулле (каля Стоўбцаў), а пасля смерці бацькі жылі ў Прымагіллі (Яцках) каля Койданава. Казімір вучыўся ў Мінскім гарадскім вучылішчы і каля 4 гадоў авалодваў скульптурным майстэрствам у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства.

З 1899 г. К. Каганец жыў ва ўрочышчы Лісіныя Норы каля Прымагілля. З 1901 г. працаваў у Мінскім таварыстве дабрачыннасці, мастаком адной з майстэрняў Рыгі, на будаўніцтве чыгункі ў Лідзе. За рэвалюцыйную агітацыю сярод сялян Койданаўшчыны К. Каганец быў двойчы арыштаваны і зняволены (у 1905—06 і 1910—11). З пачатку 1912 г. служыў аканомам у фальварку Жортай на Барысаўшчыне. Памёр Карусь Каганец 20 мая 1918 г. ў Прымагіллі. Пахаваны ў Навасёлках, недалёка ад Прымагілля.

Пры жыцці К. Каганец апублікаваў мізэрную долю напісанага — апавяданне «Прылукі» (1902), верш «Наш сымболь» (1904), п'есу «Модны шляхцюк» (1910) і інш. Дарогу да друку нярэдка закрывала цвёрдая ўмова пісьменніка, які адстойваў свой погляд на асаблівасць беларускага правапісу: «Друкуйце, як яны напісаны, не зменьваючы правапісьма».

Мова твораў К. Каганца пераважна фальклярызаваная. Шырока ўжываюцца ў ёй звароткі: *Гэй, хлопцы, брацця мае, а сыны Зямлі Беларускай* («Прамова»); *Жайваронча малы, // Птушачка ты гожа...* («Жайваронча малы...»); *Будзь здароў, сынок, // Ды са святкамі...* («Бацька сыну»), традыцыйныя эпітэты і параўнанні: *Жывуць так Віт з сваёю дачкою, краснаю паннаю, ізноў у дастатку і супакоі. Адно нячыстая сіла не дрэмле, і пакусы вялікую сілу маюць. І ўпаў наш баярын у вялікі грэх, так што зямля нават здрыганулася* («Вітаўка»); *Ветры буйны загулялі — // Іскры нашы заблішчалі, // Штораз болей разжыгаліс, // Красным светам распаляліс* («Ветры буйны загулялі»), паўторы, шматзлучнікавасць і шматпрыназоўнікавасць: *Над рэчкаю, над Слаўкаю, недалёка святога месца Студзянца, дзе з-пад дарогі на гары вада цудоўная выліваецца і спадае ў яр глыбокі, а ярам у Слаўку цячэ, а Слаўка па каменнях шапоча,— стаіць княскае гарадзішча* («Навасадскае замчышча»); *Па-над Шчарай і над Пцічам, // Над Бярозай і над Случам,— // Дзе та Прыпяць прабягае, // Піну, Горынь што прыймае. // Гэй, Палессе, Палессе!..* («Палессе»), рытарычныя пытанні і выклічнікі: *Гэй, мы, хлопцы-надняможцы, // Гукнем разам, гукнем разам: // О — гоў!* («Наш покліч»); *Колькі то вучоных людзей, колькі то слаўных казакоў, ваявод і гетманаў наша зямліца выгадавала?* («Прамова»); *Ой, краіна мая бедна, // Ворагамі скута, // Пі сво гора ўжо да дна!* («Плач беларуса»), сказы з клічнай і пытальнай інтанацыяй: *Адважна, брацця, наперад ідзеце // Цвёрдай і правай ступою* («Наш сымболь»); *Гэй, русіне! Што так зажурыўся? //*

*Чы пра Русь ты сваю шчэ не забыўся?* («Беларус»).

Мове твораў К. Каганца ўласцівы таксама інверсія: *Ляжаў той хлапчына чарнявы, злажыўшы рукі пад галаву, і, відаць, добра яму так было, бо вочы яго карыя неяк весела глядзелі то на воблачкі белыя, каторых лёгкі цёплы ветрык гнаў кудысь па чыстаму сіняму небу, то на расінкі, вісячыя на лістах і мігаючыя рознымі аганькамі, каторых сонейка, нядаўна выглянуўшае з-за лесу, яшчэ не ўспела асушыці* («Такая доля»), традыцыйныя зачыны і канцоўкі: *Не летась, не залетась, а калісь у старыну* («Прылукі»); *Ой, вецер шуміць, ой вецер гудзе, // А цераз поле чалавек ідзе...* («Кабзар»); *Я за табою на край-свет пайду // Толькі вазьмі мяне маладу!* («Старажовы курган»).

Ва ўсіх творах К. Каганца наглядаецца моцны ўплыў беларускай гутарковай мовы, прычым не толькі ў дыялогах, але і ў аўтарскай мове (памяншальна-ласкальныя формы, унутраная вобразнасць слоў і словазлучэнняў, персаніфікацыя): *Браты мае родныя, // Браты мае — братанькі, // Хлопцы — беларусікі, // Палесся казачанькі!* («Браты мае родныя»); [Грыпіна:] *Жыву, дзякаваць богу міленькаму, і святому Юр'ю, і Міколцы святому, і вам здаровенькім* («Двойчы прапілі»); *У хату ўскаківае, уцякаючы ад сабак,* Пранцішак — *бледны, задыхаючыся; ён у чорным сурдуціку, у чорных нагавіцах, у белых рукавічыках і каўнерыку* («Модны шляхцюк»).

Ідучы за народнымі гаворкамі, К. Каганец зафіксаваў у сваіх творах шмат разнастайных архаізмаў і дыялектызмаў: *зы* 'з', *чы* 'ці', *мя* 'мяне', *ця* 'цябе', *ся* 'сябе', *яко* 'як', *то* 'тое', *та* 'тая', *е, ё* 'ёсць', *хоч* 'хочаш', *іці* 'ісці', *іціме* 'будзе ісці', *хадзема* 'хадзем', *гукнямо* 'гукнем', *здадом* 'здамо', *удзвёх* 'удзвюх', *удвох* 'удвух', *сарачня* 'сорак', *ночы* 'ноччу', *спамеж* 'паміж', *у голаў (голавы)* 'у галаву (галовы)', *аб землю гаварыці* 'гаварыць пра зямлю', *у невашта* 'няма ў што', *на ўзярэддзі* 'на азяродах' і 'на азяродзе', *дзервяная цэрква* і *дзераўляная цэркаў* 'драўляная царква', *ужо за нашых часоў* 'ужо за нашым часам (за нашымі часамі)' і інш. Надзвычай шмат у творах арыгінальнай лексікі, якую К. Каганец пастаянна запісваў у свой слоўнік: *спяванкі, калiннiк, бажыца, поліва, прадзіва, перавітка, могліцы, сцернішча, увекі, незабавам, заранне, ваўчуга, каняжына, лаговішча, выпляніць, дуроўства, падстаркаватая, паддастаткам, папараблядзі, дупляністы, калоддзе, ліпнёг, вызіраць, хварабіна* і інш., яшчэ больш разнастайных словазлучэнняў: *уся мокрая да руба; выйшла ім з вачэй: дзівіцца на яе раз ад разу; пайшла сабе ў лес ізноў, як і прыйшла; чым дуж на сані ды наўцёкі; за быля што ў мала што багатшага ад сябе; стала ў дзевера зямлі даходзіць; трэба чыніць запасы на зіму; не смей працівіцца; здружыўся з буйнымі ветрамі; пачаў старацца і слабець; даўся ў думу; вялікую думу на ўме мае* і г. д. Своеасаблівая ў творах К. Каганца і фразеалогія: *ці мала славы прыдбаў; бяру я ўсё на вум; за сэрца шчэміць; зло на вуме мець; на бога надзею пакладаючы; як сталыя людзі павядаюць; і ўсё па ўсім; рынаю рынуліся; сядзець у бога на печы; чуеш сябе панам; бог яго ад шведскай рукі захаваў; сцяміць бяду немінучую.*


BIEŁARÚSKI LEMENTÁR

ABO

Piérszaja nawúka czytańnia.

PICIARBURH.

1906.

**«Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» (вокладка). 1906.**

Многа часу і ўвагі К. Каганец аддаваў вывучэнню і навуковай распрацоўцы беларускай мовы, якую ён лічыў адной «з найстарэйшых і найчысцейшых з усіх моваў славенскіх». На жаль, ніводной мовазнаўчай працы аўтар пры жыцці не апублікаваў і нават цалкам не завяршыў, таму пра яго погляды ў гэтай галіне можна меркаваць толькі на падставе рукапісаў (захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі). К. Каганец сур'ёзна цікавіўся графікай, правапісам, лексікаграфіяй і граматыкай. Шукаючы адпаведныя знакі для перадачы гукаў, даследчык-энтузіяст вывучаў рускую, лацінскую, арабскую і іншыя азбукі, нават рабіў спробу скласці сваю беларускую азбуку. Адзін чарнавы праект яе збярогся. Пачынаецца ён тэарэтычнымі разважаннямі аўтара пра найважнейшы, на яго думку, прынцып, на якім павінна грунтавацца графіка кожнага пісьменства,— найбольш поўнай, наколькі гэта магчыма, адпаведнасці паміж літарамі і гукамі. К. Каганец схематычна пазначаў контуры азбукі, якая быццам бы здольна дакладна адлюстраваць гукавы склад беларускай мовы на пісьме. Ад рускага варыянта традыцыйнай кірыліцы яна адрозніваецца толькі наданнем своеасаблівых значэнняў славянскім літарам *е, ю, ъ, ѡ* і ўвядзеннем новых літар ε, γ, ȥ. Літара *е* прызначалася для перадачы галоснага пярэдняга рада сярэдняга пад'ёму пасля цвёрдых зычных ва ўсіх складах незалежна ад націску; літара ε — для перадачы гэтага гука пасля мяккіх зычных пад націскам; літара *ю* — для перадачы ўсіх галосных сярэдняга і ніжняга пад'ёму ў ненаціскных складах пасля цвёрдых зычных, за выключэннем канцавога адкрытага складу, у якім памянёныя гукі, на думку К. Каганца, у большасці беларускіх гаворак адрозніваюцца паміж сабою ў вымаўленні і таму на пісьме павінны перадавацца асобнымі літарамі *(е, а, о)*; літара *ѡ* — для перадачы галоснага задняга рада ніжняга пад'ёму *о*, які «можна гаварыць, калі з яго пачынаецца слова, як *го* або *во*, а калі ў сярэдзіне, то як *оў*»; літара γ — для перадачы *г* з прыдыханнем; літара ȥ — для перадачы гука [ц] на месцы этымалагічнага мяккага [т]. Тут жа ўказвалася на неабходнасць прыняцця асобнай літары і для мяккага [д], якое «беларусы найбольш гавораць востра, з прысвістам і цяпер пісьменнікі пішуць *дз*».

Свае высновы пра беларускі правапіс К. Каганец найбольш поўна выклаў у лісце да рэдакцыі «Нашай нівы». З яго відаць, што ў пытаннях графікі і арфаграфіі К. Каганец прытрымліваўся процілеглых поглядаў: пры дапамозе першай хацеў перадаваць на пісьме моцныя і слабыя фанемы, а таксама пазіцыйныя варыянты іх, а пры дапамозе другой — толькі моцныя фанемы.

Жывучы ўвесь час сярод простага люду і часта пераязджаючы ў пошуках працы з адной мясцовасці ў другую, К. Каганец запісваў цікавыя, на яго погляд, беларускія словы, каб скласці тлумачальны слоўнік. М. Каспяровіч, добра знаёмы з рукапіснай спадчынай К. Каганца, большая частка якой у час Вялікай Айчыннай вайны загінула, пісаў, што нават у частцы яго папер зафіксавана больш за тысячу чыста народных слоў, невядомых сучаснай беларускай літаратурнай мове. У чарнавых паперах К. Каганца знаходзім 60 назваў птушак, 35 — звяроў, што жывуць на Беларусі, а таксама 90 назваў дрэў, характэрных для беларускай флоры, з іх 44 — пладовых.

К. Каганец з'яўляецца пачынальнікам мэтанакіраванай апрацоўкі беларускай навуковай тэрміналогіі. Шэраг астранамічных тэрмінаў ён падаў у зробленым ім сумесна з С. Шаўлоўскім перакладзе кнігі «Гутаркі аб небе і зямлі» (1907), а граматычных — у падручніку «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» (1906),

які, паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў, быў падрыхтаваны з удзелам К. Каганца. З прапанаваных у апошняй працы навуковых тэрмінаў адны потым замацаваліся (часам з фанетычнымі і марфалагічнымі зменамі) у беларускай мовазнаўчай літаратуры як агульнапрынятыя *(літара, склад, кропка, двукроп'е, клічнік, пытальнік)*, а другія хоць і не замацаваліся, аднак да рэвалюцыі і ў першыя паслярэвалюцыйныя гады выкарыстоўваліся шматлікімі лінгвістамі *(зык, сагалосны, закавыка, чужаслоў, недаказ)*.

Многа мовазнаўчых тэрмінаў К. Каганец скарыстаў у сваёй «Беларускай граматыцы». Над гэтым падручнікам ён працаваў, відаць, у самым пачатку 20 ст. «Беларуская граматыка», як і іншыя мовазнаўчыя працы К. Каганца, засталася няскончанай. Пра яе можна меркаваць таксама толькі па чарнавіку, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук. Гэта 26 рукапісных старонак школьнага сшытка. Дзве першыя старонкі прысвечаны фанетыцы, астатнія — марфалогіі. У фанетычнай частцы даюцца кароткія звесткі пра граматычны склад слоў, гукі і графіку, якую аўтар разумее як сукупнасць пісьмовых знакаў: літары, знакі для абазначэння вастрыні, мяккасці і кароткасці гукаў, знакі прыпынку. Пры гэтым паняцці гука і літары не заўсёды размяжоўваюцца. У марфалагічнай частцы разглядаюцца часціны мовы: *іменнік* (назоўнік), *прыметнік*, *лічэбнік*, *займка* (займеннік), *чыннік* (дзеяслоў), *паясняч* (прыслоўе), *прэдслоў* (прыназоўнік), *злучок* (злучнік), *галоснік* (выклічнік). Пры іх разглядзе адзначаюцца некаторыя лексіка-граматычныя групы і катэгорыі змяняльных, аднак вельмі фрагментарна і не заўсёды на ўзроўні тагачаснай лінгвістычнай навукі, прыводзяцца ўзоры скланення назоўнікаў, прыметнікаў і лічэбнікаў, табліцы спражэння дзеясловаў. У сістэме склонавых і асабовых форм нярэдка прапануюцца даўно ўстарэлыя і вузкадыялектныя.

Хоць усе мовазнаўчыя працы К. Каганца засталіся незавершанымі і некаторыя з іх на сённяшні дзень у многіх адносінах здаюцца наіўнымі, аднак яны сведчаць пра несумненныя лінгвістычныя здольнасці іх аўтара і як гістарычны факт заслугоўваюць сур'ёзнай увагі.

*Літ.*: Каспяровіч М. Карусь Каганец: Да 10-й гадавіны смерці // Маладняк. 1928. № 10; Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навук. дзейнасці. Мн., 1985; Абабурка М. В. Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры. Мн., 1987.

*І. К. Германовіч, М. В. Абабурка.*

Штодзённая гутарковая мова беларускага казачнага эпасу жыве і развіваецца па сваіх законах, удзельнічае ў адлюстраванні сістэмы народнага светаадчування і светапогляду, бясконца развіваецца і папаўняецца фанетычнымі і лексічнымі наватворамі, няспынна пашырае вобразнасць слова, яго эмацыянальна-псіхалагічную скіраванасць.

Нарматыўная лексіка беларускіх казак гарманічна спалучаецца з дыялектнай, з той, што не надта «кладзецца» ў граматыку, але шырока бытуе ў народнай гутарковай мове, у яе марфалагічнай і сінтаксічнай структурах.

Характэрнымі рысамі казак з'яўляюцца развітая паэтычная абраднасць, устойлівыя стэрэатыпныя формулы. Звычайна казкі пачынаюцца з зачыну — устойлівай, тыповай стылістычнай фігуры (часта рыфмаванай), галоўная функцыя якога — падрыхтоўка далейшага развіцця казачнага дзеяння: *Вось былі ў бацькі тры сыны — два разумных, а трэці дурань; Жылі-былі два браты. Адзін быў бедны, а другі багаты.* У зачынах пашырана ўжыванне дзеяслова *жыць* у прошлым часе з выражэннем няпэўнай даўнасці дзеяння: *Жыў дзед з бабаю; Жыў цар і царыца. І былі ў іх сын і дачка.* Беларускія казачнікі шырока карыстаюцца зачынам з словазлучэннямі тыпу *жыў (жылі) сабе, быў сабе, калі быў, як быў: Жыў сабе дзед ды баба; Быў сабе каток з пеўнічкам: зрабілі яны сабе хатку.* Чарадзейныя казкі найчасцей пачынаюцца зачынам тыпу *От у некаторым царстве, у некаторым гасударстве, можа, у том, у каторым мы жывём, жыў...* Асобныя з іх (вельмі рэдка казкі іншых разнавіднасцей) пачынаюцца з прыказкі, звычайна не звязанай з канкрэтным сюжэтам: *От даўней было за царом Гарохам было людзей троха. Снег гарэў, а саломаю тушылі. Гарох пачаў ваяваць, а Кацярына стала Польшчу забіраць.* [...] *мужык слухаў жонку, як цяпер жонка мужыка.* Мэта прыказкі — псіхалагічна падрыхтаваць слухачоў да ўспрыняцця фантастычных падзей казачнага свету, паказаць яго нерэальнасць, умоўнасць і адначасова засяродзіць увагу на мастацкіх здольнасцях самога казачніка.

Завяршальным звяном кампазіцыі беларускіх казак з'яўляецца канцоўка, якая, як і зачын, даволі часта набывае характар устойлівай слоўнай формулы. Сваім жартаўлівым тонам яна выклікае ў слухачоў эмацыянальную разрадку і нібы вяртае іх з чарадзейнага свету да рэчаіснасці. Шырокаўжывальныя словазлучэнні-канцоўкі *сталі жыць-пажываць* і іх варыяцыі *з таго часу, з тых пор*: *Жывуць-пажываюць і людзей у госці да сябе запрашаюць; І жывуць і пажываюць, і даббро нажываюць.* У канцоўках чарадзейных казак шырока бытуе ўстойлівая формула тыпу *І я там быў, мёд-віно піў, па вусах цякло, а ў рот не папала.* У некаторых канцоўках казачнікі ствараюць, з аднаго боку, ілюзію праўдзівасці, а з другога — падкрэсліваюць ірэальнасць казачных падзей: *А лісічка з пеўнікам пабудавалі акенца, і сёння жывуць і хлеб жуюць.*

Устойлівая традыцыйная формула не толькі акаймоўвае казку. Вядомы цэлы шэраг сярэдзінных формул. Яны абмалёўваюць казачных персанажаў: іх знешняе аблічча, характар, учынкі, хуткі рост багатыра, яго сілы і інш.: *Рос ён не па гадах, а па гадзінах, не па гадзінах, а па мінутах; Я б яму нарадзіла дванаццаць сыноў-сакалоў: волас у волас, голас у голас, па запясці рукі ў серабры, па калені ногі ў золаце, у ілбе зоркі, у патыліцы месік.*

Падрабязных партрэтаў персанажаў казкі не даюць. Героі іх часцей раскрываюцца праз дынамічныя дзеянні. Уяўленне ж пра знешнасць складваецца найбольш праз яе эмацыянальнае ўспрыняцце іншымі персанажамі. Так, хараство, прыгажосць становяцца відавочнымі, калі расказваецца, як яны захапляюць кагосьці ці асляпляюць, уражваюць сваёй незвычайнасцю: *Выходзіць адтуль царэўна, ды такая прыгожая — ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць; Ажно як увайшла яна ў касцёл, то зрабіўся такі бляск ад яе сукні, што людзі адны другіх не бачылі.* Трапна гучаць імёны-прозвішчы казачных асоб. І заўсёды выразная мова адпавядае стварэнню індывідуальнасці, з вельмі канкрэтнымі духоўнымі якасцямі: *А нашы людзі дурныя, цягнуць жылы да са ўсяе сілы пнуцца, дзела спраўляюць, а ліха маюць, бо паны ўсё к сабе грабуць, з мужыкоў шкуры дзяруць, а то й саўсім іх к сабе бяруць, за свет заганяюць, б'юць, калечаць, забіваюць і літасці не маюць.*

Традыцыйныя формулы непасрэдна звязаны з развіццём казачных падзей, з кампазіцыйнай будовай казачных твораў. Найчасцей яны паўтараюцца тройчы: герою даюцца тры заданні, на шляху да мэты яму патрэбна тры разы перамагчы праціўнікаў, або вырашыць тую ці іншую праблему герою памагаюць тры памочнікі. Трохразовыя паўторы надаюць казцы эпічны характар, а архітэктоніка твора набывае строгую ўпарадкаванасць, рытмічнасць, як, напрыклад, у казках тыпу «Тры ночы на магіле бацькі». Амаль кожнаму ўчынку галоўнага персанажа адпавядае той ці іншы формульны стэрэатып. Малодшы сын тройчы ідзе на бацькаву магілу і кліча яго словамі: *Жоўты пясок, рассыпайся, грабова дошка, адчыняйся, бацька, з мяртвых уставай.* За смеласць сын узнагароджваецца незвычайным канём: *Ну вот жа, сынок, ёсць у зялёных лугах, у сцідзёных вадах конік-бурац, вешны*

*кавурац. Дзень буяець, ноч гуляець, а як крыкнеш — да добрага малайца прыбываець!.. ты крыкні, свісні — ён да цябе прыбудзець. Ты на ём пакрасуйся і пусці яго ў зялёныя лугі, у сцідзёныя воды.* Конь гэты становіцца чарадзейным памочнікам героя. У розных казачных сюжэтах памочнікі гэтыя розняцца між сабой, розныя і магічныя словы, з дапамогай якіх можна выклікаць каня ці іншую істоту: *Ен адышоў, як крыкнуў багатырскім голасам, свіснуў маладзецкім посвістам.* Чароўны памочнік памагае выканаць, здавалася б, непасільнае заданне, ператварае «старца» ў прыгожага малойца, імгненна пераносіць яго ў *трыдзевятае царства, у трыдзесятае гасударства*, у якім ёсць *свінка — залатая шчацінка.*

Апавядальныя формулы аб'ядноўваюць розныя падзеі, дзякуючы чаму ствараюць уражанне прасторава-часавых перамяшчэнняў герояў, даюць магчымасць дынамічна рухаць развіццё канфлікту.

Адметнай асаблівасцю казак з'яўляецца шырокае выкарыстанне дыялогу, які, з яго лаканічнымі рэплікамі, драматызуе сюжэт, надае яму дынамічнасць, а стылю жывасць і экспрэсіўнасць. Вядомы цэлы шэраг казак, сюжэт якіх выяўляецца толькі праз дыялог: «Ліса і цецярук», «Ліса і жораў», «Коцік, пеўнік і лісічка», «Ліса і дзяцел», «Церамок» і інш. *Пажаніліся ліса з старым катом, прывяла яго дадому і ўсіх жыхароў лесу страшыць: ...А хто ў маем ляску трашчыць? У майго дзядышчы хвост з памяліішча: як вылезе, дык і цябе завалоча... Захацелася звярам паглядзець на новага гаспадара лесу, нагатовілі абед і раяцца, хто іх зваць пойдзе:— Ну, каму ж ісці па іх. Ідзі ты, мядзведзь! // — Не, я лемехават! // — Ну, ідзі ты, воўк! // — Не, я не ўваротак! // — Ну, ідзі ты, кабан! // — Не, я не шwыдак!*

У беларускіх казках заходніх абласцей рэспублікі часам сустракаецца двухмоўны польска-беларускі дыялог. Тады, бывае, паланізмы служаць сродкам стварэння камічнага эфекту, пераважна пры кантрастным спалучэнні мовы пана і мужыка.

У казцы «Кветка шчасця» герою, які размаўляе па-беларуску, кароль адказвае па-польску: *Абярнулася мурашка зноў хлопцам, і стаў ён перад крулем на каленкі і кажа:*

*— Міласцівы крулю абяцаў прывезці крулеўну, ці жывую, ці мёртвую.*

*А круль адказвае:*

*— Гэй, не таке рыцэжэ погінэлі юж давно, і след по ніх згінол. Ну едзь на шчэнсце і шукай. Кеды знайдзеш, атшымаш вор злота і половэ крулеўства і зенцем моім станеш.*

У казцы галоўныя рысы персанажаў раскрываюцца праз учынкі, дзеянні, пэўныя рухі. Іх мова і паўтарае і дапаўняе зрокавы вобраз. Так, скоры на нагу заяц імгненна выпаліў запрашэнне: *Добры дзень! Прасіў бацька і матка, штоб вы ласкавы былі, к нам на абед прыйшлі, хлеба-солі з'елі, чарку выпілі.*



**Выданні беларускіх народных казак.**

Дыялог дае казачніку мажлівасць раскрыць і сваё выканаўчае майстэрства і надзяліць вобраз непаўторнымі знешнімі асаблівасцямі:— *Козы мае, козы, ці пілі, ці елі? // — Не-э-э-э! дзедка, не пілі, не елі, беглі цераз масток, ухапілі кляновы лісток, беглі цераз грэбельку, ухапілі вады капельку — і аб том.*

Калі ж казу выганяюць з хаткі зайца, яна застаецца такой, як раней — тыя ж характар, натура, голас: *Я каза-дзераза, // Пайбока луплена, // За тры грошы куплена, // Ту-пу, ту-пу нагамі, // Укалю цябе рагамі, // Ножкамі затапчу, // Хвосцікам падмяту.*

Дыялог цесна ўзаемазвязаны з інтанацыйна-рытмічнай арганізацыяй твора. Гэта ўзаемасувязь стварае асаблівы эмацыянальна-экспрэсіўны фон у тых казках, у якіх прыродныя рэаліі сугучны псіхалагічнаму стану героя: *Лёг Каваль-Багатыр пад дубам, ляжыць і чуе, ажно начынаюцца грымоты. Зашумеў лес, загуў, жупіць рознымі галасамі. Але ось бліснула маланка й загрымела, да так, што аж зямля задрыжала. Наляцеў вецер. Рве лес, стогне. Дубы трашчаць, хвоі стогнуць, а яліны схіляюцца чуць не да зямлі. А маланка блісне, блісне — чуць не цераз усё неба, асвеціць цёмны лес, і зноў цёмна, як пад зямлёю.*

Дыялогі беларускіх народных казак перапоўнены характэрнымі для бытавой мовы ласкальнымі эпітэтамі-зваротамі: *лебедзіку, саколіку, голубе (А мой,— кажа,— татачку, а мой ты саколіку).*

Эмацыянальна - псіхалагічную плынь ажыўляюць розныя лексіка-семантычныя пласты гутарковай мовы, у прыватнасці фанетычныя, лексічныя дыялектызмы з празрыстай семантыкай: *ігрушы дупліnаватыя; сыны прыходжаюць; доўга лаяла іх матка, як шархнець за дзверы; хмара спусцілася і забрала серадольшаю сястру.*

Пераказваючы казку, казачнік захоўвае і традыцыйны стыль, і сінтаксіс народнай мовы, розныя тыпы і простых і складаных сказаў, простую мову. Маналог як асноўная форма паведамлення казкі і дыялог як сродак сюжэтнага руху і стварэння вобраза вызначаюць прастату сінтаксічных канструкцый і лаканічнасць іх лексічнага ўвасаблення: *У аднаго мужыка быў адзін сын; Тым часам вярнуўся змей у свае палацы. Чуе — чужым духам пахне.* Пашыраны ў казачным сінтаксісе пропускі галоўных або даданых членаў сказа:*Яна ўліла вады ў вадно вушка — пабегла вада, уліла ў другое — пабегла крупа.*

Асаблівасцю казачнага сінтаксісу з'яўляецца арганічнае аб'яднанне простай і ўскоснай мовы. Найчасцей гэта бывае тады, калі маналог казачніка перарастае ў дыялог дзейных асоб: *Жонка кажа, што гэта нашы грошы, бо* **мы** *іх знайшлі, а чалавек кажа, што* **мы** *капаем гаспадару і выкапалі грошы на яго зямлі, дык гэтыя грошы трэба аддаць яму.*

Казачны вобраз-персанаж акрэсліваецца асабліва выразна, калі мова яго поўніцца трапнымі выразамі: прыказкамі, прымаўкамі, фразеалагізмамі, устойлівымі словазлучэннямі і выслоўямі (скорагаворкі, застольныя жарты, прыгаворкі і тосты, вітанні, зычэнні, прысяганні і бажба, праклёны, абзыванні).

Праз фразеалагічныя адзінкі (напрыклад, прыказкі) вобраз-персанаж раскрываецца асабліва выразна: *От пачаў ён* [багатыр] *таргаваць тую кабылку, але мужык не хоча яе аддаваць ні за якія грошы.*

*— Навошта мне грошы,— кажа ён,— яшчэ хто заб'е, а без каняки як я упраўлюся з гаспадаркаю. Без каняки й чалавек не чалавек.*

*— Памяняй сваю кабылку на каня,— кажуць багатыры,— бяры сабе на выбар, якога хочаш.*

*— Хто мяняе, у таго хамут гуляе,— кажа мужык.*

Асацыятыўнасць прыказкі дае ўражанне пра характарыстычныя якасці героя, яго кемлівасць, духоўнасць, жыццёвую пазіцыю. У казцы «Янка-война» як зачын выкарыстаны тры прыказкі: *Служыў у аднаго пана войт Васіль. Ен быў чалавек дужа багаты. Уміраючы, прыказаў ён свайму сыну Янку:*

*— Помні, сынок, гэта, што я табе гавару: ніколі з панам не дружы, жонцы праўды не кажы і чужых дзяцей за здольнікаў не бяры!*

Актыўна абмалёўваючы казачны персанаж, а то і галоўную ідэю твора, нярэдка асноўную сэнсавую нагрузку казкі бярэ на сябе вобразнае выслоўе, як, напрыклад, у сацыяльна-бытавой казцы «Цана лусты хлеба»:

*Цар заказаў сабе залатую карэту, каб у яго было лепш, як у другіх цароў. Багата золата пайшло на тую ка-*

*рэту. Людзі яго здабывалі, а самі гінулі.*

*І вось аднойчы едзе цар у сваёй залатой карэце, а насустрач яму стары чалавек ідзе, бедны, абшарпаны і худы.*

*Цар спыніўся і пытае ў старога:*

*— Колькі каштуе мая карэта? Яна ж уся залатая!*

*А стары адказвае яму:*

***— Як недаясі, то за лусту хлеба аддасі!***

*Пасмяяўся цар з дурнога мужыка і паехаў.*

У аснове гэтага рыфмаванага выслоўя ляжыць прынцып паэтычнага парадоксу (спалучэнне несумяшчальных паняццяў), калі малому — лусце хлеба — надаецца непараўнана вялікае значэнне, і як бы незнарок амаль на нішто зводзіцца вялікае — залатая карэта.

Паэтыка казачнага эпасу прадстаўлена практычна ўсімі выяўленчымі сродкамі. Аднак той ці іншы паэтычны троп мае сваю ступень пашырэння ў розных казачных разнавіднасцях.

Эпітэт канкрэтызуе намінатыўнае значэнне таго ці іншага прадмета, засяроджвае ўвагу на яго колеравым або гукавым фоне, стварае непаўторныя мастацкія вобразы. Найбольш старажытнымі паводле паходжання з'яўляюцца таўталагічныя эпітэты. Менавіта яны стварылі непаўторнасць агульнафальклорнай плыні і шырока прадстаўлены ў народнай казачнай прозе: *белы свет, высокія горы, глыбокія моры, яснае сонейка, ясныя зоры, калінаў мост, жоўты пясок, чыстае поле, цёмны лес, добры молодзец, зялёны сад (луг, стэп, дуб), ярая пшаніца, шаўковая трава, дубовы стол, пуховая пярына, самайграйныя гуслі, белая пасцель, ясны сокал, буйная галава, пушча-драмушча, шчыры бор* і іншыя.

Даволі частыя ў беларускіх казках устойлівыя стылістычныя формулы, што складваюцца са сталых эпітэтаў і пэўных дзеясловаў *(Цёмная ноч абнімае яго)*, ці з некалькіх сталых эпітэтаў *(Пайшла яна ў чыстае поле, у зялёну дуброву)*, ці з некалькіх сталых эпітэтаў пры адным назоўніку (ампліфікацыя): *Ад іх буйных, чыстых слёз пайшлі рэкі.*

Больш познія, але таксама вельмі пашыраныя паяснльныя эпітэты. У чарадзейных казках яны з'яўляюцца асноўным сродкам ідэалізацыі галоўных герояў, іх дзівосных памочнікаў, усяго, што імі зроблена: *Прыехаў дзед у лес, стук у дубок — выскоквае каток — залаты лабок, залатое вушка, сярэбранае вушка, залатая шарсціначка, сярэбраная шарсціначка, залатая лапка, сярэбраная лапка; ...тожа ж сабе здалёка бачаць: стаіць яблына, сучок залаты, сучок срабраны, яблыкі залатыя, яблыкі срабраныя, тож і крынічка —*




**Л. Р. Бараг. «Беларуская казка» (вокладка). 1969.**

*кубак залаты, кубак срабраны.* Трапляюцца ў казках метафарычныя эпітэты, якія здольны надаць стылёвай плыні ці лірычны, ці псіхалагічна напружаны характар, як у песенных жанрах *(зямчужныя росы, шаўковая трава, шкляныя вочы)*. Найчасцей у казачным эпасе ўжываюцца эпітэты-характарыстыкі, якія часам цалкам зліліся з імем героя ці назвай прадмета: *Паганы Цмок, Кашчэй Бессмяротны, Івашка Мядзведжае Вушка.* У казках пра жывёл сустракаюцца эпітэты-самахарактарыстыкі: *мышка-рандышка; жабка-чаропка; зайчык-пакапуснічак; ліс, што ўсіх грыз; воўк, што ўсіх тоўк; мядзведзь-памядун; лісічка-сястрычка; бычок-трацячок.* Яны садзейнічаюць стварэнню яркага, эмацыянальнага вобраза. У аснове асацыятыўнага поля гэтых эпітэтаў — багатыя назіранні чалавека над жывёльным светам.

Характэрныя для бытавой беларускай мовы і беларускага фальклорнага стылю словы з памяншальнымі суфіксамі надаюць народным казкам своеасаблівае лірычнае адценне. Традыцыйны стылістычны прыём спалучэння шэрага слоў з памяншальнымі суфіксамі для выражэння спачування апавядальніка казачнаму персанажу *(Бацько дай яму стрэльбачку, ён так без яе ні разочку не ступіць)*, для надання эмацыянальнага тону простай мове і паглыблення вобразнай псіхалагічнай характарыстыкі *(Скажы, мамачко, свайму сыну, каб мне сукеначку аддаў)*. Найбольш распаўсюджаныя ў беларускіх казках эпітэты з ласкальнымі суфіксамі: *высокенькі, смутненькі, разумненькі, дарагенькі, раднюсенькі, бялюсенькі, чысцюсенькі,* а таксама займеннікавыя, прыслоўныя і дзеепрыслоўныя формы: *самюсенькі, усенькі, нікагусенькі, ўсюдачкі, заўсёдачкі, чутнюсенька, добранька, хуценько,* што звязана з шырэйшым за іншыя славянскія мовы ўжываннем беларусамі (і ўкраінцамі) кола назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў і прыслоўяў з памяншальнымі суфіксамі.

Вобразнасць, жывасць і дынамічнасць узмацняюцца ў беларускай казцы шматлікімі выклічнікамі, якія выкарыстоўваюцца звычайна ў асабліва экспрэсіўных эпізодах казкі для перадачы імклівага руху *(Дурны схіліўся па хлеб, ён яго граб! за карак, але дурны як га! стаў на роўных нагах)*, падання *(Яна села на лапату, а ён яе ў печ бабух)*. Ужываюцца тут і незвычайныя гукапераймальныя казачныя выклічнікі *бурздэнк, шпургнець, шморк, шусь, лоп-лоп.*

Шырокае распаўсюджанне ў казачнай прозе атрымала метафара, якая спрыяе стварэнню непаўторнай вобразнасці, індывідуалізуе казачны стыль, надае яму эмацыянальную напружанасць і садзейнічае раскрыццю мастацкага таленту самога казачніка: *Жылі сабе дзед ды баба. І жылі яны раней добра. Тады далей-падалей* ***беднасць у іх ўсялілася*** *— сталі бяднець.* Асабліва часта ў казках метафара мяжуе з гіпербалай: *Эй, шкляная бочка, жалезныя абручы! Рассыпцеся наразна! Дакуль мая матушка будзе журыцца, а* ***я буду тапіцца ў матчыных слязах;*** *А царэўна стаіць і* ***заліваецца горкімі слязамі.*** Метафары надзвычай шырока ўдзельнічаюць у апісанні падзей у чарадзейных казках. Гэта і апісанне незвычайных памочнікаў або прадметаў, і выкананне розных заданняў *(Так каралевіч махнуў ручнікам,* ***палац скруціўся,*** *ён яго ў кішэнь)*. У асобных выпадках казачныя метафары ствараюць амаль фантастычныя вобразы: *У маёй матушкі ў трыдзевятым царстве, на трыдзесятай зямлі ёсць чушка-вопер. Ён па гароду ідзе, лычам арэ, а нагамі скародзіць, а вушамі сее і вее. Як пойдзе па гародзе — хлебушка некуды дзець!* Метафара можа выражацца адным членам сказа, цэлым сказам або нават некалькімі. Спецыфічнае метафарычнае бачанне свету здольна часам нарадзіць цэлыя панарамныя апісанні, як гэта адбываецца ў казках тыпу «Вайна паміж свойскімі і дзікімі звярамі».

Беларускія народныя казкі ўвабралі ў сябе ўсю палітру гутарковай мовы, у прыватнасці некаторыя параўнанні. У адрозненне ад метафары, якая надае стылёвай плыні пэўную загадкавасць, параўнанне, супастаўляючы, заўсёды ўдакладняе, канкрэтызуе дзеянне або характэрную дэталь: *Усё піша, аж пяро скрыпіць, бы зімою лапаць; Яснае сонейка свеціць*

*і хукае, бы на дзіцятка родная маці.*

Найбольшай мастацкай выразнасці ў выкарыстанні параўнанняў дасягнулі казачнікі ярка выражанага псіхалагічнага накірунку. Яны імкнуцца не толькі захаваць дынаміку сюжэтнага дзеяння, але і зазірнуць ва ўнутраны свет галоўных герояў, засярodзіць увагу на іх псіхалагічным стане: *Засмуціўся каралевіч, ні п'е, ні есць, кінуў даглядаць і свае кветкі да ўвесь дзень ходзіць па лесе ці па беражку мора да не то плача, не то пяе песні, але такія жаласныя песні, што хто ні чуе, дык сэрца бы хто кіпцюрамі скрабе, а слёзкі так і цякуць з вачоў, бы ў бабра.*

Вобразнасць беларускай казкі заканамерна абумоўлена штодзённым вопытам селяніна. Сустракаюцца параўнанні галавы са стогам (капой) сена *(Галава велізарная, бы стог...)*, вялікіх каменняў з валамі *(Азірнуўся на ўёску, аж няма там хатак,— дзе яны стаялі, толькі каменні, бы валы на пашы)*, хуткага росту з ростам грыба *(Расце хлопец, як рыжок)*, героя з дубам *(Бацька здаровы, як дуб)*, сівога дзеда з голубам *(Дзед з торбаю, сівы, як голуб)*.

Стыль і вобразнасць казак адлюстроўваюць час, побыт, уяўленні апавядальнікаў. У аснове многіх параўнанняў ляжыць супастаўленне жыцця простых сялян і паноў, праз прызму ўяўленняў аб заможным жыцці багацеяў прабіваецца надзея простага чалавека палепшыць сваю долю: *Налавіў мужык перад калядамі рыбы, едзе дадому, аж, бачыць, ліса пасярод дарогі ляжыць. «Ойой, якое важнае дзела. Будзе бабе на каўнер. Убяру ж я бабу, накармлю рыбай, і будзе яна, як якая панюся».*

Выразная сацыяльная накіраванасць відаць у бытавых казках пра праўду і крыўду. Так, вядомая казка «Іван-Прастачок», пачынаючыся спакойна і стрымана, адразу настройвае на роздум пра сацыяльна-філасофскія і эстэтычныя праблемы: *У яком-тось краю жылі людзі, бы ў раю: гаравалі, працавалі да й бяды не малі. Свет вялікі, зямлі многа, усюды вольна — працуй на хлеб, рабі да бога хвалі. І жылі там людзі ў ласцы, у згодзе, весь дзянёчак гаравалі, працавалі, а аб ночы аддыхалі. А прыйдзе бяда — у згодзе ратаваліся ў прыгодзе: бедным, хворым памагалі, дак і ўсё бяды не малі.* Стыль казкі стрыманы, сінтаксіс гутарковы, аздоблены поўнымі, дакладнымі рыфмамі, сюжэт спакваля перадае ідэалізаванае ўяўленне апавядальніка пра справядлівае сацыяльнае грамадства. Фабула казкі апавядае пра з'яўленне ў грамадстве людзей, якія *жаруць сабе людское дабро, нічога не робяць да толькі сала гадуюць*, якія прывучаюць да прымусу, пакорлівасці, цярплівасці. Пратэст супраць такога парадку — у аснове ідэйнага зместу твора: *...І пачаў Іванка-Прастачок па свеце хадзіць, у дудачку граць, людзей збіраць ды ім праўду казаць. Як заграе, дак і ўбачаць людзі, што вялікая крыўда на свеце, што адны пануюць, а другія гаруюць, адны багацтву лічбы не маюць, другія з голаду падыхаюць.*

Асаблівасцю моўнай стыхіі чарадзейных казак стала гіпербала. Яна памагае ўзбагаціць чароўны свет незвычайнымі падзеямі, ператварыць рэальнае ў фантастычнае: *Яшчэ не ўзяў касу: як шарнець — дак ён удвая скасіў, як яны... Яны* [браты] *ляглі аддыхаць, а ён як пайшоў, як махнуў, дак удвоі болі за іх згроб.* Збіраецца герой у дарогу, просіць зрабіць булаву, якая памагла б перамагчы злую сілу: *І заказаў сабе на дарогу булаву дванаццаць пудоў вагой. Скаваў ён булаву, выйшаў за горад і кінуў яе ўгару, за воблакі. Яна там лятала-лятала, тады ляціць уніз. Ён узяў выставіў правую далонь. Яна як ударылася, дык і рассыпалася! Ну, тады ён пайшоў назад к кавалям. Яны перакавалі яму: палавіна жалеза, а палавіна сталі. Выйшаў ён за горад, як кінуў яе ўгару, за воблакі, яна там лятала-лятала, потым ляціць уніз. Ён узяў шапку здзеў і выставіў лоб. Яна як ударыць яму ў лоб, дык толькі ўвагнулася.* Менавіта выкарыстанне гіпербалы памагала ўвасобіць спрадвечную мару пра магчымасць пераадольваць вялікія прасторы з хуткасцю думкі, узняцца над зямлёй і ўбачыць яе непаўторную прыгажосць. Няўрымслівая фантазія нашых продкаў стварыла вобразы дзівосных памочнікаў: дывана-самалёта, багатырскага каня, які *да зямлі тры разы даткнуўся і ўвесь свет абляцеў.* Каб пасняхова процістаяць нязведаным сілам *(Дзядок з нагаток так шматаў гэтага дуба, так шматаў, што вывернуў. Вырвацца не мог, дак вывернуў гэтага дуба і пацёг у зямлю, на той свет)*, герой звяртаецца па дапамогу да Аб'ядалы і Апівалы, якія могуць з'есці хлеб, што дванаццаць дзён пяклі, або выпіць вады з многіх бочак і не напіцца. Зусім натуральна, што з дапамогай гіпербалы паэтызуецца і сама праца простага чалавека, і тыя сродкі працы, якія маглі б перш за ўсё накарміць людзей: *Улез дзед на неба. А там стаіць хатка на курынай ножцы. Дзед зайшоў у хатку, а там жорны. Пакруціў іх у адну старану, у другую. Ляцяць бліны з маслам, а на другую старану пірагі.*

Вусны характар бытавання народнай паэзіі стымуляваў пошукі адпаведных форм пры стварэнні мастацкага твора. Гэтым тлумачыцца надзвычай шырокі рытма-меладычны спектр паўтораў у архітэктоніцы казак, лексіцы, стылістыцы, кампазіцыі. Больш простымі можна назваць лексіка-сінтаксічныя паўторы, якія індывідуалізуюць мову персанажаў, ствараюць ілюзію развіцця дзеяння ў прасторы і часе, надаюць казцы выразную экспрэсіўнасць. Для беларускага казачнага стылю характэрны сінтаксічныя паўторы дзеясловаў *ісці, ехаць, біцца (Бягуць, бягуць, бягуць, бягуць, ажно ведзьма зноў тут; Цяпер ён паехаў, ездзіў, ездзіў — ускорасці натрапіў свінога кажушка; Біліся, біліся, біліся, біліся, біліся да тых пор, што цмок ні рукі, ні нагі не паверне)*; паўторы дзеясловаў інфінітыўнай формы ў спалучэнні са злучнікамі *дак, так, як, дык (Ісці, дак ісці, ісці, дак ісці, ісці, дак ісці — старайся паспяшаць і дзень і ноч; Ідзе яна, так ідзе)*; рытмічныя паўторы блізкіх па сэнсу эпітэтаў *(Конь мой любы, конь мой мілы)*.

Частыя ва ўсходнебеларускіх казках таўталагічныя паўторы, звязаныя з сінтаксічным паралелізмам *(А маё дзіця мілае, як мне ні плакаць, як ні сумаваць, калі ты ні мой)*.

Казка ведае розныя віды лексічных паўтораў — аднакаранёвых слоў, сінонімаў: *Кіт-рыба, шчука-рыба, думаць-гадаць, біць-прыбіваць, адзінадзінёшанькі, зваць-велічаць, хацянехаця: А тады* [ліса] *шастала-шастала, стукала-стукала, ды ніхто не ідзе; А ён узяў булаву, як зачаў біць: бій-бій, бій-бій, бій-бій і не забій яе.*

У казачным эпасе архітэктоніка пераважнай большасці твораў уключае аднатыпныя паўторы (прынцып лінейнай паўтаральнасці). Колькасць эпізодаў (матываў) вар'іруецца, аднак найбольш традыцыйныя трохразовыя паўторы.

У мастацкі строй беларускіх казак арганічна ўваходзяць сінонімы і блізказначныя словы. *Падаюць яму* [царэвічу] *тры зялезных прута. Царэвіч давай яго* [абжору] *бізуваць па хрыбетнай касці, збій тры пруты.* З дапамогай выразнага сіноніма дзеяслова *біць — бізуваць* — па-мастацку цікава выяўляецца дынаміка дзеяння, рухомасць эмоцый.

Народная мова казачнага эпасу — важная крыніца фарміравання новай беларускай літаратурнай мовы. Даследаванне лексіка-семантычнай сістэмы мовы беларускіх казак — актуальная праблема сучаснай лінгвістыкі.

*Літ.*: Бараг Л. Р. Беларуская казка. Мн., 1969; Борковский В. И. Синтаксис сказок: Русско-белорусские параллели. М., 1981; Янкоўскі М. А. Паэтыка беларускай народнай прозы. Мн., 1983; Сарока У. А. Аб семантычнай структуры будаўніча-бытавой лексікі ў мове беларускага казачнага эпасу // Беларуская мова. Мн., 1985. Вып. 13; Крук І. Восточнославянские сказки о животных. Мн., 1989.

*Л. Р. Бараг, І. І. Крук, М. А. Янкоўскі.*

## КАЛІНОЎСКІ КАСТУСЬ

Мысліцель і публіцыст, рэвалюцыянер-дэмакрат Кастусь (Канстанцін Вікенцій Сямёнавіч) Каліноўскі нарадзіўся 2 лютага 1838 г. ў в. Мастаў-



ляны Беластоцкага ваяводства (Польшча). У 1860 г. скончыў Пецярбургскі універсітэт са ступенню кандыдата права. За кіраўніцтва паўстаннем 1863—1864 гг. на Беларусі і ў Літве публічна пакараны смерцю 22 сакавіка 1864 г. ў Вільні.

К. Каліноўскі выступіў на гістарычнай арэне ў той час, калі сутыкненне грамадска-палітычных сіл дасягнула найвялікшага напружання, калі існаванне беларусаў як самастойнага народа было пастаўлена на карту.

Працэс дэнацыяналізацыі, які інтэнсіўна адбываўся ў 18 ст. пасля пераводу справаводства на Беларусі па пастанове Варшаўскай канфедэрацыі саслоўяў 1696 г. на польскую мову, не спыніўся і пасля далучэння Беларусі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай да Расійскай імперыі. Беларускай мове ўсё менш і менш заставалася месца і ў недзяржаўных сферах. Нават сфера побыту не заставалася недатыкальнай. Праз школу, культурныя ўстановы і дзелавыя кантакты ўсё шырэйшыя колы насельніцтва Беларусі адыходзілі ад роднай мовы і пераключаліся на польскую ці рускую. Узмацнялася толькі саперніцтва паміж польскімі нацыяналістычнымі і расійскімі асімілятарскімі сіламі за душу беларусаў. У гэты складаны перыяд перадавыя сілы беларускай інтэлігенцыі звярнуліся да мовы простага люду. Па-беларуску сталі пісаць філаматы, набывала пашырэнне ў рукапісах і друкаваным выглядзе ананімная беларуская літаратура. Да сярэдзіны 19 ст. з'явіліся беларускія творы (Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч), аўтары якіх імкнуліся даць асвету беларускаму селяніну, абудзіць яго чалавечую годнасць. Але гэта разыходзілася з інтарэсамі царызму, тым больш што паўстанне 1831 г. было яшчэ на памяці. Таму царскія ўлады наносяць удар па маладой беларускай прэсе пастановай 1859 г. «не дапускаць ужывання польскага алфавіту для друкавання твораў на беларускай гаворцы», каб не «стварыць і развіць адпаведную народнасць». Забарона секла пад корань першыя парасткі беларускай нацыянальнай літаратуры, бо першыя нашы пісьменнікі друкавалі свае творы менавіта лацінскім шрыфтам. Здавалася, што беларусы як народ перастануць існаваць, таму што іх мове не стала месца ні ў адной сферы афіцыйнага ўжытку. Але рэвалюцыйная сітуацыя завяршаецца паўстаннем 1863 г., і беларусы атрымалі гістарычны шанс заявіць, што яшчэ не памерлі. І яны гэта зрабілі вуснамі К. Каліноўскага і яго паплечнікаў: яны вывелі беларускую мову на рэвалюцыйную трыбуну, далі ёй месца ў найгалоўнейшай на той час сферы афіцыйнага ўжытку.

Стаўленне Каліноўскага да беларускай мовы выцякала з яго сацыяльна-палітычнай праграмы, дзе свабоднае самавызначэнне народа (у тым ліку і беларускага) у федэратыўнай дзяржаве было адным з важнейшых пунктаў. А мову ён разглядаў як неад'емны фактар нацыянальнага быцця. Таму Каліноўскі ў «Пісьме з-пад шыбеніцы» пісаў: «Там, гдзе жылі палякі, літоўцы і беларусы [цар маскоўскі] заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах учаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова папольску, па-літоўску да і па-беларуску, як народ таго хочэ». Дэмакратычны прынцып «як народ таго хоча» быў для Каліноўскага асноўным крытэрыем вырашэння ўсіх грамадскіх пытанняў. Заклікаўшы народ ісці «ваяваці за свае чэлавечэе і народное права», Каліноўскі на мове гэтага народа пачаў выдаваць разам з аднадумцамі газету «Мужыцкая праўда» (за подпісам «Яська — гаспадар з-пад Вільні») і распаўсюджваць яе сярод насельніцтва. Ён зрабіў спробу надаць беларускай мове годнасць афіцыйнай мовы, выдаўшы на ёй загад аб сваім уступленні на пасаду камісара Гродзенскага ваяводства і «Прыказ ад ронда польскага над цэлым краем літоўскім і беларускім...». Напярэдадні паўстання намаганнямі дзеячаў, звязаных з вызваленчым рухам, было ажыццёўлена выданне першага беларускага буквара — «Элемэнтажа для добрых дзетак-католікаў» (Варшава, 1862), што азначала спробу ўвесці ў навучанне дзяцей беларускую мову. Пры такіх абставінах нават з боку царскіх улад была спроба выдаць некалькі брашур на беларускай мове. Усё гэта сведчыла, што рэвалюцыйная хваля абуджала наш народ да актыўнага самастойнага жыцця.

У пытаннях практычнай апрацоўкі беларускай мовы, пра што мы можам меркаваць і па «Мужыцкай праўдзе» і па «Пісьму з-пад шыбеніцы» з вершам «Марыська чарнаброва...», якое было напісана ўжо ў турме, але перададзена на волю і апублікавана ў 1867 г. А. Гілерам, Каліноўскі залежаў ад тых самых фактараў, што і іншыя пісьменнікі і грамадскія дзеячы таго часу. Пачынаць даводзілася на пустым месцы; не было ні пісьмовых традыцый, ні друкаванага органа, ні навуковых распрацовак, ні месца для беларускай мовы ў афіцыйным грамадскім жыцці. Была толькі забарона друкаваць беларускія творы і панаванне дзвюх развітых дзяржаўных літаратурных моў — рускай і польскай. Гэта вызначала характар і якасць беларускіх выданняў, тэндэнцыі ў адборы моўных сродкаў. У тых абставінах абапірацца даводзілася найперш на мову роднай гаворкі. Для Каліноўскага гэта была гаворка заходняй Гродзеншчыны з усімі яе агульнабеларускімі і вузкамясцовымі асаблівасцямі, якія і адбіліся на мове «Мужыцкай праўды» і «Пісьма з-пад шыбеніцы».

Са з'яў, агульных для большай часткі беларускіх гаворак, тут перадаюцца дзеканне і цеканне *(abdziraci, budziem, ciepier, hawaryć)*, пераход [л] і [в] у [ў] *(nastau czas, praudu)*, цвёрдае [р] *(hawaryć, pisarou)*, зацвярдзеласць [ж], [ч], [ш] *(jeszcze, mużykou, waszaho)*. Паслядоўна перадаецца асімілятыўнае змякчэнне зычных *(wolność, śmieło)*, хоць іншыя віды асіміляцыі не перадаваліся *(narod parazumnieu, raz pytau)*. Важнейшая фанетычная з'ява беларускай мовы аканне ў першых шасці нумарах «Мужыцкай праўды» ў пераднаціскных складах, як правіла, перадаецца *(abrablajuć, adzin, raztałkawać)*, а ў паслянаціскных захоўваецца [о] *(hołos, na storonu, woroh)*. Тут праявіліся і асаблівасці гродзенскай гаворкі *(baćko, bywało)*, і спроба прымяніць прынцыпы этымалагічны *(dobre, pierelić)* і марфалагічны *(z bohom, naukoj, czynounikou, carskomu, wolność)*. У формах роднага склону прыметнікаў і займеннікаў у перадапошнім складзе захоўваецца [а] *(boskaho, nijakaho, sabaczaho)*. У «Пісьме з-пад шыбеніцы» нярэдка сустракаем і адступленні ад гэтых правіл *(mało — douha, pierebiraje — pieramoże)*. Яканне, як правіла, не перадаецца *(abieszczali, dzieruć, Piecierburh, ziemla)*, але ёсць рэдкія выключэнні *(dziarżemsia, dziaciuki* побач з *dzieciuki)*.

Моцная сувязь з мовай роднай гаворкі наглядаецца ў перадачы марфалагічных з'яў. Гэта і канчатак давальнага склону *-ові, -еві (czeławiekowi, maskalewi)*, і канчатак *-мо* ў першай асобе множнага ліку дзеясловаў *(addamo, dzierżymosia, służymo)*, і канчатак *-эце, -еце* ў другой асобе дзеясловаў загаднага ладу *(prymiecie, zabiecie, skażecie)*, і канчатак *-ом, -ём* у месным склоне займеннікаў *(na tom świecie, o swajom bracie)*. Дыялектнымі з'яўляюцца і формы

N 2.

MUŻYCKAJA PRAUDA.

Dzieciuki!

Kali Boh stworyu usich ludziej wolnymi i usim dau adzinakujn duszu, tak skul że heto uziało sia szto adzin marnuje da i nad ludźmi zbytkuje, a druhi biedny pańszczynu służyć, albo abroki u kaznu płacić?

Kożny pa swojemu tałkuje, na swaju storonu ciahnie. Car każe szto jon dobre nam dumaje, a pany każuć szto jony dobre dumajuć nam zrabici, a mużyk biedny ad ich dabrości jak prapadau tak i prapadaje.

**К. Каліноўскі. «Мужыцкая праўда» (фрагмент). 1862.**

творнага склону на *-эй* *(dzień z noczej, z adnej starany)*. Некаторыя вузкадыялектныя формы ўжываюцца побач з пашыранымі ў беларускай мове, як, напрыклад, інфінітывы на *-ці* і *-ць* *(aszukaci, baranici* і *брać, kryudzić)*, тры формы дзеяслова *быць* у цяперашнім часе *(czy je prauda, czy jeść chto, jość za szto)*, два канчаткі (*-е* і *-і*) у месным склоне назоўнікаў *(na świecie* і *na świeci)*, кароткія і поўныя формы прыметнікаў і займеннікаў *(astatniu kaszulu, heto piśmo* і *adzinakuju duszu)*. З роднай гаворкі ўзяты і больш рэдкія формы *(harać, czy, zausiudy)*.

Аснову лексічнага фонду твораў Каліноўскага складаюць тыповыя беларускія словы, такія, як *бацькаўшчына, бачыць, вельмі, вырабляць, гадаваць, глуміць, гэтулькі, каб, карысць, кашуля, марнаваць, надта, нарэшце, панаванне, патрэба, праца, пякельны, стварыць, хвала, цяпер, шчыры* і падобныя. Сюды адносяцца і тыпова беларускія словы па спосабу ўтварэння: *аддрукаваць, выпераджаць, дапамагчы, падмайляць, перашкода, прымусіць, скрыўдзіць* і інш.

Побач з традыцыйнай лексікай у творах Каліноўскага з'яўляецца вялікая колькасць новых слоў, якія азначалі працэсы і рэаліі бурнага тагачаснага жыцця: *бунт, газэтка, губернатар, казённы, маніфест, маскаль, начальства, пасрэднік, паўстанне, праўленне, рэкрут, самаабарона, самарондства, спраўнік, старшына, сходка, указ* і інш. Многія словы, ужытыя Каліноўскім у новым кантэксце, набывалі новае гучанне і нават новы для беларускай мовы сэнс, напрыклад: *глуміцель народа, дух народны, грабіць у народзе памяць, мужыцкая праўда, сумленне народнае, падаткі на душы* і інш.

Для стылёвых мэт Каліноўскі перш за ўсё выкарыстоўваў багаты арсенал беларускай мовы. Яго творы з'яўляюцца вяршыняй беларускай публіцыстыкі 19 ст., выбар лексічных і граматычных сродкаў у іх падпарадкаваны задачы ўздзейнічаць на чытача праз яго пачуцці, знайсці водгук у яго душы, каб звернутая да яго думка абудзіла да дзеяння. Таму характэрнай рысай «Мужыцкай праўды» і «Пісьма з-пад шыбеніцы» з'яўляецца высокая ступень эмацыянальнасці мовы гэтых твораў. Яна дасягаецца за кошт шырокага ўжывання слоў у пераносным значэнні *(ablizać czaławieka, krouju zapisać)*, памяншальна-ласкальных *(maje milеńkije, wyjdziesz holeńki)*, грубых слоў *(sabacza jucha, napiszuć na srakach mużyckich)*, шматлікіх параўнанняў *(życio naszeje horsze sabaczaho)* і прыказак *(astatniu saroczku żdzierci)*. Выкарыстоўваючы гэтыя сродкі, Каліноўскі будуе востра іранічныя фразы *(nahajka kazackaja mieła skrepić nasz bratni uzioł)*. Каб надаць сваім выказванням эмацыянальную афарбоўку, Каліноўскі ўмела выкарыстоўвае і сінтаксічныя сродкі. Ён часта ўжывае звароткі *(hetakaho licha, Dzieciuki, i skacina nie znaje)*, клічныя і пытальныя інтанацыі (сказы): *stańmo drużno razom za naszuju wolność!, chto nam lepsz dumaje?*, намяняе слова інтанацыяй *(a maskouskoje życio — horka uże dola)*. Многія пытанні маюць рытарычны характар.

Задача стварэння беларускай афіцыйнай (літаратурнай) мовы патрабавала арыентавацца перш за ўсё на патэнцыял жывых гаворак. Але гэты працэс адбываўся ва ўмовах панавання ў афіцыйных сферах польскай і рускай мовы. Таму на мове кожнага дзеяча нашага адраджэння таго часу адбіўся ўплыў гэтых моў. Як і іншыя сучаснікі, Каліноўскі выкарыстаў польскую графіку, прымяніў некаторыя арфаграфічныя прыёмы польскай мовы, як, напрыклад, злітнае напісанне часціц *ж* і *бы* са знамянальным словам *(byliby, hodziż, siejcież)*, раздзельнае напісанне часціцы *-ся* *(zdajeć sia, zbajau sia)*. Сустракаюцца марфалагічныя *(haspadarskije, ludzie, karystawać, swaho)* і сінтаксічныя паланізмы *(nie mieu hroszy, zabrali nam paciechu, maje hałаwu kab dumau* і інш.) і ў значнай колькасці лексічныя *(вшэхмоцы, здзерства, крулеўства, паказны, ронд, скутэчны, сызма, цеменжыць, шубеніца* і інш.). На мове твораў Каліноўскага адбіўся і ўплыў рускай мовы. Гэта канчатак *-ie* ў назоўніках ніякага роду *(prawosławie, zlitowanije)*, і суфікс *-іва, -ыва* ў дзеясловах шматкратнага дзеяння *(apłakiwau, prykazywaje)*, і асобныя несістэмныя выпадкі *(adnie, zastanać)*, і шэраг лексічных запазычанняў *(вялець, кнут, праворны, прыказ, февраль, харашо* і інш.).

Прынятыя Каліноўскім прынцыпы арфаграфіі вытрымліваюцца ў яго творах непаслядоўна. А «Мужыцкая праўда» № 7 адрозніваецца ад першых шасці іншым падыходам да перадачы некаторых моўных з'яў. Гэта можа сведчыць, што яе аўтарам быў хтосьці іншы.

Найважнейшай заслугай Каліноўскага перад беларускім народам было тое, што ён, правільна зразумеўшы ролю мовы ў жыцці нацыі, зрабіў практычны крок, каб надаць беларускай мове статус раўнапраўнай сярод суседніх моў, прадстаўляў беларусаў праз свае творы і беларускамоўныя дакументы паўстанцкага камітэта як самастойны народ. Гэтым ён будзіў нацыянальную самасвядомасць. Пазней удзельнік паўстання 1863 года Ф. Багушэвіч у выглядзе лозунга кіне кліч «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!». Гэты кліч падхопяць наступныя пакаленні адраджэнцаў.

*Літ.:* Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988; Кісялёў Г. В. Сейбіты вечнага. Мн., 1963; Яго ж. З думай пра Беларусь. Мн., 1966; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984.

*І. І. Крамко.*

## КАЛЬКІ

Лексічны склад мовы папаўняецца рознымі шляхамі. Найбольш пашыранымі з іх у беларускай мове з'яўляюцца словаўтварэнне, калі ад існуючых лексічных адзінак з дапамогай наяўных у дадзенай мове сродкаў (прыставак, суфіксаў і г. д.) утвараюцца новыя словы, і запазычванне, калі для называння пэўнага паняцця, прадмета ці з'явы бярэцца слова з іншай мовы. Прамежкавае становішча сярод гэтых працэсаў займае калькаванне (стварэнне новых слоў са свайго моўнага матэрыялу, але на ўзор адпаведнай іншамоўнай лексе-

мы). Такім чынам, калькі (французскае calque копія) — словы, што ўтвараюцца ў працэсе калькавання,— з'яўляюцца адначасова вынікам словаўтварэння і запазычвання, прычым запазычваецца толькі структура слова. Калькі ўяўляюць сабой памарфемны пераклад іншамоўнага слова, калі кожная яго значымая частка замяняецца марфемай мовы-рэцыпіента з тым значэннем, якое мае адпаведная марфема мовы-крыніцы. Напрыклад, лексема *месяцаход* з'яўляецца калькай з рускага слова *луноход*: рускае *лун-* = беларускаму *месяц-*, руская злучальная галосная (інтэрфікс) *-о-* = беларускай *-а-*, рускае *-ход* = беларускаму *-ход*. Разглежданы прыклад адносіцца да словаўтваральных калек, хоць яны і ўтвораны на ўзор структуры чужога слова, але з свайго моўнага матэрыялу, і таму поўнасцю ўключаюцца ў сістэму словаўтваральных адносін дадзенай мовы (маюць матывуючую аснову, словаўтваральны фармант, адносяцца да пэўнага словаўтваральнага тыпу).

Акрамя словаўтваральных калек, у лексічным складзе беларускай мовы вылучаюцца таксама семантычныя калькі, калі запазычваецца толькі семантыка (значэнне), само ж слова і яго структура з'яўляюцца беларускімі. Як прыклад семантычнай калькі можна прывесці слова *кранаць*. Пад уплывам значэння рускага слова *трогать* беларускае *кранаць* набыло новае значэнне «хваляваць, расчульваць; парушаць чый-небудзь спакой, дакучаць, турбаваць». Асновай для запазычання прыведзенага значэння паслужыла наяўнасць у рускім слове *трогать* і беларускім *кранаць* агульнага значэння «датыкацца, дакранацца да каго-, чаго-небудзь». Трэба заўважыць, што руская лексема *трогать* «выклікаць спачуванне, расчульваць» з'яўляецца семантычнай калькай канца 18 стагоддзя з французскага слова toucher. Семантычнымі калькамі трэба лічыць таксама назоўнікі *крыніца* (рускае *источник*) «тое, што служыць асновай чагонебудзь; пісьмовыя помнікі, дакументы, на аснове якіх пішуцца навуковыя даследаванні» *(крыніца багацця, літаратурныя крыніцы)* і *надбудова* (рускае *надстройка*) «сукупнасць ідэалагічных адносін, поглядаў і ўстаноў пэўнага грамадства». Словаўтваральныя калькі маюць пераважна кніжнае паходжанне, утвараюцца пры перакладзе тэкстаў з адной мовы на другую. Таму першапачаткова яны з'яўляюцца індывідуальнымі наватворамі перакладчыкаў, а пасля ўжо становяцца шырокаўжывальнымі. Па гэтай прычыне многія словаўтваральныя калькі ўзнікаюць у працэсе стварэння перакладных слоўнікаў. Асноўнай крыніцай словаўтваральных калек у беларускай мове з'яўляецца руская мова. Так, да калек з рускай мовы адносяць такія беларускія словы, як *аглядальнік* (обозреватель), *агульнакарысны* (общеполезный), *аднаасобнік* (единоличник), *ажыццяўленне* (осуществление), *грамадазнаўства* (обществоведение), *грамадазнаўчы* (обществоведческий), *знішчальнік* (истребитель), *істотны* (существенный), *наглядчык* (надзиратель), *падпальшчык* (поджигатель), *спажывецкі* (потребительский), *уражанне* (впечатление) і інш. Пад уплывам рускай мовы з'явіліся словы *мовазнаўства, мовазнавец, калгас, ашчадкаса* і г. д.

Калькуюцца не толькі асобныя словы, але і цэлыя выразы, у прыватнасці фразеалагізмы. Так, да фразеалагічных калек у беларускай мове адносяцца выразы *пункт гледжання* (рускае точка зрения), *страціць галаву* (потерять голову), *згараць ад сораму* (сгорать со стыда). У гэтых выпадках літаральна перакладаюцца асобныя кампаненты ўстойлівага словазлучэння — словы. Да фразеалагічных калек набліжаюцца пераклады некаторых назваў міжнародных арганізацый, краін і г. д. Напрыклад: *Злучаныя Штаты Амерыкі* — англійскае United States of America, *Арганізацыя Аб'яднаных Нацый* — United Nations Organization, Вялікабрытанія — Great Britain. Некаторыя з такіх назваў разглядаюцца як вынік двайнога калькавання праз пасрэдніцтва рускай мовы: англійскае United States of America — рускае *Соединённые Штаты Америки* — беларускае *Злучаныя Штаты Амерыкі*.

Акрамя калек у беларускай мове вылучаецца пласт паўкалек — слоў, якія складаюцца часткова з запазычаных, а часткова з уласнабеларускіх кампанентаў. Паўкалькай з рускага *прилуниться* трэба лічыць дзеяслоў *прылуніцца*, у якім усе марфемы, акрамя кораня *лун-*, перадаюцца беларускімі моўнымі элементамі: рускае *при-* — беларускае *пры-*, *-и-* — *-і-*, *-ть-* — *-ц-*, *-ся-* — *-ца*. Параўнайце: рускае *луноход* — беларускае *месяцаход*.

*Літ.:* Крукоўскі М. І. Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову. Мн., 1958; Бурак Л. І. Сучасная беларуская мова. Мн., 1974; Баханькоў А. Я. Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд. Мн., 1982.

*А. А. Лукашанец.*

## «КАМЕДЫЯ» К. МАРАШЭЎСКАГА

«Камедыя» Каятана Марашэўскага — найбольш значны помнік беларускага пісьменства 18 ст. Яна ўзнікла ў вельмі цяжкі перыяд, неспрыяльны для развіцця беларускай мовы, літаратуры, культуры. У 1696 г. было забаронена выкарыстанне старабеларускай мовы ў справаводстве. Гэта выклікала рэзкае звужэнне сферы яе ўжывання ў іншых галінах грамадскага і культурнага жыцця. У вуснай форме беларуская мова засталася сродкам зносін простага сялянства, дробнай шляхты, якія іншай мовы проста не ведалі.

У шматмоўнай літаратуры Беларусі, якая ў 18 ст. развіваецца ў рэчышчы барока, а затым — класіцызму, уласна-беларуская літаратура займае сціплае месца. Стылізаваныя пад фальклор жартоўныя і лірычныя вершы, камедыйныя сцэнкі пра мужыкоў, пасталюдзінаў — вось дзе была прыдатная беларуская мова. Але гэтая мова, арыентаваная на жывую народную гаворку, была ўжо незалежнай ад старых пісьмовых традыцый.

Усе беларускія літаратурныя творы 18 ст.— рукапісныя. Яны захоўваліся ў літаратурных зборніках розных навучальных устаноў або прыватных асоб — аматараў не толькі прыгожага, але і трапнага сакавітага слова. Вельмі часта гэтыя тэксты без «пашпартных» звестак або з няпоўнымі звесткамі, часам нават назвы не маюць. «Камедыі» ў гэтым сэнсе пашанцавала. Вядомы яе аўтар — Каятан Марашэўскі, месца яе ўзнікнення — Забельская дамініканская калегія (зараз непадалёку ад в. Валынцы Верхнядзвінскага раёна), на тытульнай старонцы пазначана дата — 1787 г. Праўда, назва нічога, акрамя жанравай прыналежнасці, не выражае. У зборніку тэкст «Камедыі» змешчаны на аркушах 14—19. У перапісцы твора ўдзельнічалі два чалавекі (са стар. 23б — іншы почырк).

Пра аўтара «Камедыі» можна сказаць толькі, што ён быў прафесарам рыторыкі і піітыкі і што ў 1787 г., акрамя «Камедыі», там жа была пастаўлена яго польскамоўная трагедыя «Свабода ў няволі». Даты жыцця К. Марашэўскага пакуль што невядомыя. Аб яго светапоглядзе можна меркаваць па яго творах, а таксама творах, напісаных у гэты ж час яго калегамі, забельскімі драматургамі М. Цяцерскім, І. Юрэвічам і іншымі. Усе яны ў камедыях высмейваюць чалавечыя недахопы, заганы мясцовай шляхты, у трагедыях на антычныя сюжэты апяваюць мужнасць, свабодалюбства, патрыятызм.

«Камедыя» К. Марашэўскага вылучаецца тым, што, па-першае, гэта даволі вялікі самастойны твор, а не дробная інтэрлюдыя, што давалася дзеля пацехі гледачоў паміж дзеямі сур'ёзнай драмы; па-другое, беларускі тэкст у «Камедыі» колькасна пераважае над польскім і складае прыкладна $^3/_5$ ад агульнага аб'ёму помніка; патрэцяе, беларуская мова ў «Камедыі» не проста перадае мужыцкую гаворку, а з'яўляецца сродкам стварэння мастацкага вобраза. Па-беларуску ў «Камедыі» гавораць галоўныя героі


AKT Trzeci
Scena Pierwsza.
Chłop.

**Старонка «Камедыі» К. Марашэўскага. Зборнік Забельскай калегіі. 1787.**

Дзёмка і карчмар. Астатнія персанажы (Д'ябал, хлопчык, пакутнік, шляхціцы) — па-польску.

Фабула «Камедыі» вельмі простая. Селянін Дзёмка скардзіцца на сваё цяжкае жыццё і абвінавачвае ва ўсіх сваіх пакутах прабацьку Адама. Яго нараканні выпадкова пачуў Д'ябал. Ён даводзіць, што Дзёмка не вытрымае і больш простай умовы, чым Бог паставіў Адаму,— маўчання на працягу гадзіны. Д'ябал прапануе заклад, і Дзёмка, паквапіўшыся на грошы, згаджаецца. Яўрэй-карчмар разбівае ім рукі. Тройчы Д'ябал паўтарае заклад і тройчы Дзёмка не вытрымлівае спакусы: убачыўшы чужую бездапаможнасць — дае парады, сутыкнуўшыся з глупствам — пачынае павучаць.

Твор сцвярджае асветніцкую думку — шчасце чалавека залежыць ад яго самога, а не ад Бога. Аўтар аддае даніну свайму часу і ў канцы твора супярэчыць усёй папярэдняй логіцы развіцця вобраза. Дзёмка ў апошнім маналогу заклікае да пакорлівасці і набожнасці, пасіўнасці і паслухмянасці.

Беларуска-польскія аўтары 18 ст. вымушаны былі прыстасоўваць для перадачы беларускай гаворкі польскую графічную сістэму. Незалежнасць ад выпрацаваных вякамі традыцый старабеларускага пісьменства спрыяла больш дакладнаму адлюстраванню жывых гутарковых рыс: акання (*chadżu, ad tapara, małaczu, caluheńki, ad capa, perałom*), якання (*biada, mianie, nia można, ciapier, iaszezo*), дзекання (*susiedzi, adzin, hdzie, dzierzysie Dziemidzie*), цекання (*dzieciey karmić, ciaszko, daciarplu*), асіміляцыйнай мяккасці зычных (*złość, nieszczaśliwy, świnia*), асіміляцыі па звонкасці-глухасці (*z maładzby, za kladzby, nie budu mahczy*). Аўтар так добра адчуваў асаблівасці вымаўлення, што здолеў перадаць і яўрэйскі акцэнт у гаворцы карчмара (*Niu i sto ty kaześ...*).

Натуральна, аўтар не меў ні падручнікаў па беларускай граматыцы, ні нарматыўных слоўнікаў. Ён мог кіравацца толькі ўласным густам і інтуіцыяй. Таму беларуская мова ў камедыі блізкая да мясцовай гаворкі. Так, вінавальны склон прамога дапаўнення, выражанага неадушаўлёным назоўнікам, па форме супадае з назоўным або з родным склонам (*sarwau jabłyczak, datrymać zakład — adpuści hrecha, zakładu dadzierzać*). Прыметнікі жаночага роду ў назоўным склоне, як і ў адпаведных гаворках, ужываюцца толькі з двухскладовымі канчаткамі (*zanoskaja sprawa, ziemla nieuradzajnaja, nieciazkaja recz*). Прыметнікі ніякага роду маюць чатыры гутарковыя варыянты ненаціскных канчаткаў *-оё, -аё, -оя, -ая* (*hetojo zierkało, tojo samojo miejsce, samoja licha, praklatajo toja tawarystwa, zbytnaja majo pjanstwa*). Для гаворак, што ляглі ў аснову мовы «Камедыі», характэрна паралельнае ўжыванне прыметнікаў жаночага роду ў вінавальным склоне з канчаткам *-ую* або *-аю*. Гэта ж адлюстравалася і ў рукапісе помніка (*u jakuju biedu, pieraz caluhieńkuiu hadzinu — na zimnaiu wadu, mieu ba wialikaiu sumu hroszy*). У сістэме спражэння дыялектным паходжаннем тлумачацца формы 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга і будучага простага часу дзеясловаў I спражэння з канчаткам *-ць* (*biereć, siadzieć, lażeć, budzieć*), формы 3-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння з канчаткам *-уць, -юць* (*musiuć, abaczuć, robiuć*).

Усе гэтыя асаблівасці адзначаны сучаснымі дыялектолагамі ў гаворках Полаччыны. Аднак мову «Камедыі» нельга поўнасцю атаясамліваць з гаворкай. Побач з дакладнай перадачай гутарковых асаблівасцей сустракаем напісанні паводле гісторыка-этымалагічнага прынцыпу (*bieda, pieriemozeć, ciepier*), а таксама арфаграфічных і граматычных паланізмаў.

Ёсць у творы і выпадкі ўжывання агульнабеларускіх форм замест вузкадыялектных. Так, дзеясловы 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу ў гаворках Полаччыны маюць канчатак *-ця*, а ў «Камедыі» аўтар паслядоўна ўжывае формы на *-це* (*idzicie ż, uciekaycie, nie zamykaycie*). Гэты факт вельмі важны, таму што сведчыць аб працэсе фарміравання моўнай нормы ў практыцы пры сутыкненні сінанімічных сродкаў выражэння граматычнага значэння.

Аўтар добра валодае мастацкім словам. З першага маналога Дзёмкі: *Och jak nieszczasliwojo zycio majo. Chadzu ja chadzu pieraz caluheńki dzien, az nohi aniemieli, ruk nie czuwać ad pracy i tapara, a horsz jeszczo ad capa...* лёгка ўяўляеш сабе гэтага працавітага, змучанага цяжкім жыццём селяніна. Моўныя сродкі памагаюць аўтару перадаць і змены настрою герояў. Злосны Дзёмка крычыць: *Nie leź ty mnie u oczy, ja tabie kazu, bo ja tabie tut jak zadam to ty ani pantoflou, ani jarmułak swaich nie pazbieraiesz*, у роспачы прыніжана ўпрошвае Д'ябла: *da halubenka ty moy, zieziuleczka nienahladnaja, da ty z majo·ni siojo, ni tojo, da daruy ze hetot razoczek.*

Аўтар шырока выкарыстоўвае трапныя народныя выразы: *choć ty treśni i prapadzi; i szeleha przy duszy nie maju, mała szto krouju nie pacieju; chwaroba... na maju hoławu pryniesła; choć sabie i łby i haławy paukruczwajuć; druhi raz nie zautra mienie padmanuć; nie uchopić użo ciepier, zjeść sczorta; choć by sabie y na haławie chadzili b; u strachu woczy wialiki; na zimnaju wadu dmuchać.*

Помнікі беларускага пісьменства 18 ст. розныя па мастацкіх вартасцях, стракатыя паводле моўнага афармлення. Тым не менш яны з'яўляюцца вельмі цікавым і каштоўным матэрыялам для даследчыкаў гісторыі мовы, бо фіксуюць першапачатковы этап зараджэння новай беларускай літаратурнай мовы.

Арыгінал «Камедыі» захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы ў Вільнюсе. Упершыню апублікавана У. М. Перацам (Известия Отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук. Т. 16, кн. 3. 1911. С. 278—319).

*Публ.:* Камедыя // Беларуская дакастрычніцкая драматургія. Мн., 1978.
*Літ.:* Усікаў Я. К. Беларуская камедыя: (Ля вытокаў жанру). Мн., 1964. С. 151—196; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967. С. 362—368; Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 329—335. *Г. К. Ціванова.*

## КАНДРАЦЮК МІХАЛ



Польскі мовазнавец Міхал Кандрацюк нарадзіўся 6 сакавіка 1934 г. ў в. Дубіны Беластоцкага ваяводства (Польшча). Скончыў факультэты рускай (1958) і беларускай (1961) філалогіі Варшаўскага універсітэта. Доктар філалагічных навук (1984). Прафесар (1992). З 1960 г.— навуковы супрацоўнік, у 1985—92 гг.— загадчык аддзела беларускай мовы Інстытута славяназнаўства Польскай АН. З 1992 г. загадчык кафедры беларускай філалогіі Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі — філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. З 1987 г.— вучоны сакратар Камітэта славяназнаўства Польскай АН. З мая 1991 г. віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

М. Кандрацюк даследуе анамастыку паўночна-ўсходняй Польшчы, усходнеславянскія і польскія гаворкі польска-беларускага і польска-ўкраінскага пагранічча, а таксама славянска-балтыйскія моўныя кантакты ў межах Польшчы і Беларусі. Апублікаваў каля 90 навуковых прац. У манаграфіі «Мясцовыя назвы паўднёва-ўсходняй Беласточчыны» (Вроцлаў, 1974) прааналізаваў каля 1700 айконімаў Беласточчыны (семантычна-марфалагічная класіфікацыя і этымалогія). Сучасныя афіцыйныя назвы падаюцца з іх гістарычнымі адпаведнікамі з друкаваных і рукапісных крыніц, а таксама з дыялектнымі формамі. У працы паказаны працэс станаўлення назваў, іх развіццё і змены, праведзены аналіз польска-беларуска-ўкраінскіх і славянска-балтыйскіх моўных кантактаў. Праца змяшчае багаты фактычны матэрыял і многія наватарскія элементы ў методыцы яго апрацоўкі.

У манаграфіі «Балтыйскія элементы ў тапаніміі і мікратапаніміі Беластоцкага рэгіёна» (Вроцлаў, 1985) М. Е. Кандрацюк вырашае праблемы ўплыву балтыйскіх моў (пераважна літоўскай) на славянскую тапаніміо Беласточчыны. Прааналізавана больш за 23 тыс. сучасных геаграфічных назваў, а таксама тапонімаў, зафіксаваных у гістарычных крыніцах, сярод якіх выдзелена каля 1000 айконімаў і мікратапонімаў з балтыйскімі элементамі. Раскрываецца іх этымалогія і структура, указваюцца літоўскія лексічныя і словаўтваральныя элементы, апісваюцца спосабы славянізацыі балтыйскіх назваў, фармулююцца заўвагі і вывады пра моўнае і этнічнае мінулае даследаванай тэрыторыі.

М. Кандрацюк напісаў некалькі прац па дыялекталогіі, удзельнічаў у стварэнні «Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны» (т. 1—2, 1980, 1989), у якім пададзены агульныя ізаглосы распаўсюджання беларускіх, польскіх і ўкраінскіх моўных з'яў на тэрыторыі Беласточчыны, што мае важнае значэнне для вывучэння моўных кантактаў, удакладнення класіфікацыі дыялектаў і вылучэння дыялектных зон, а таксама пры вывучэнні розных пытанняў гісторыі і дыялекталогіі славянскіх моў. Тамы атласа змяшчаюць фанетычныя, марфалагічныя і лексічныя карты, інфармацыя якіх мае вялікую каштоўнасць як для вывучэння актуальных праблем лінгвістыкі, так і сумежных з ёю дысцыплін.

*Тв.:* Назвы жыхароў, утвораныя ад назваў вёсак і гарадоў у гаворках усходняй Беласточчыны // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972; Некаторыя асаблівасці тапаніміі ўсходняй Беласточчыны // Навуковы зборнік. Беласток, 1974; Белорусские и литовские элементы в системе польской топонимии и микротопонимии апелятивного происхождения // Proceedings of the Thirteenth International Congress of Onomastic sciences. Cracow, August 21—25, 1978. Vol. 1. Wrocław etc., 1981; Айконімы Pluralia tantum літоўскага паходжання ў Беластоцкім рэгіёне // Бел. анамастыка. Мн., 1985; Wokalizm białorusko-ukraińskich gwar powiatu Hajnowskiego // Slavia Orientalis. 1964. Nr 3; Tendencje słowotwórcze w nazwach mieszkańców na pograniczu polsko-białorusko-ukraińskim // Studia z filologii polskiej i słowiańskiej. 1969. Nr 8; Polsko-białoruskie związki leksykalne // Acta Baltico-Slavica. 1976. Nr 10; Nazwy miejscowe i terenowe od apelatywów geograficznych *grąd, hrud* na pograniczu polsko-białorusko-ukraińskim // Тамсама. 1979. Nr 12; Zapomniane bałtyckie nazwy osad na obszarze między rzeka Biebrzą a Nazwią // Тамсама. 1984. Nr 16; Badania onomastyczne w regionie Białostockim: (Stan i perspektywy) // Rocznik Białostocki. 1981. Nr 14; Bałtycko-słowiańskie hybrydy nazewnicze z formantami -i/z/na, -szczy/z/na, -icha na terenie Białostocczyzny // Formacje hybrydalne w językach słowiańskich. Lublin, 1986; Problematyca badań onomastycznych w regionie białostockim // Białostocczyzna. 1986. Nr 2; O metodach slawizacji bałtyckich nazw geograficznych na pograniczu polsko-białorusko-litewskim // Z polskich studiów slawistycznych. Ser. 7. Warszawa, 1988. T. 1; Przykłady zapożyczeń leksykalnych w gwarach polsko-białorusko-ukraińskiego pogranicza // III slovenska dialektologická konferencia. Prešov — Zemplińska šírava 4—7.10.1988. Bratislava, 1989. *А. С. Аксамітаў.*

## КАНТЭКСТ

Лацінскае слова «кантэкст» перакладаецца як «спалучэнне», «счапленне». Гэтыя словы ўказваюць на сутнасць лінгвістычнага паняцця «кантэкст» — сувязь пэўнай моўнай адзінкі з яе акружэннем у маўленчых канструкцыях. Такімі адзінкамі могуць быць фанемы, словы, словазлучэнні, сказы, звышфразавыя адзінствы. Паколькі гэта сувязь выяўляецца ў маўленні на ўсіх узроўнях будовы выказвання (фанетычным, марфалагічным і г. д.) абавязкова, то тэрмінам «кантэкст» пачалі абазначаць само акружэнне ўжытай моўнай адзінкі, пад уплывам якога яна зазнае тыя ці іншыя змяненні і дакладна выяўляе сваю структурную ці сэнсавую значымасць. Так, на фанетычным узроўні некаторыя зычныя гукі пад уплывам суседніх гукаў аглушаюцца ці, наадварот, азванчаюцца, напрыклад: *ка*[з]*анне*, але *ка*[с]*ка*; на марфалагічным — мяняецца гукавое «аблічча» марфем: *ён* [*рос*], але [*рас'*]*ліна.* Менавіта фанетычнымі ўмовамі — рытмам верша, наяўнасцю папярэдняга галоснага [ы], якасцю самога гука [і] — тлумачыцца пераход і>й у паэтычным радку: *Ішлі гоманы нівай нясмелай, гарады заклікаючы ў вёскі* (Я. Купала). Тут мы маем справу з фанетычным або марфемным кантэкстамі. У падобных выпадках у лінгвістычных працах, асабліва апошніх дзесяцігоддзяў, ужываюцца і іншыя тэрміны: гавораць пра дыстрыбуцыю, або акружэнне, ці размеркаванне пэўнай фанемы або марфемы.

Граматычным кантэкстам можна назваць сукупнасць умоў, якія ўплываюць на выбар пэўнай формы слова або словазлучэння, напрыклад: *З радасцю і болем пад'язджаю я кожны раз к родным сваім мясцінам* (І. Мележ). Формы творнага *(радасцю і болем)* і давальнага склонаў *(родным сваім мясцінам)* абумоўлены граматычнымі асаблівасцямі дзеяслова «пад'язджаць» з прыназоўнікамі «з» і «к».

Кантэкст не мае якіх-небудзь тыповых колькасных і якасных межаў, але можна гаварыць пра кантэкст вузкі і шырокі, або мікра- і макракантэкст. Для вызначэння формы слова часта дастаткова адшукаць словазлучэнне, у якое гэта слова ўваходзіць. Для вытлумачэння ж формы сказа вельмі часта трэба «зазірнуць» у суседні сказ. Так, зусім не выпадкова ва ўсіх наступных ска-

зах, акрамя першага, абрана дзеяслоўная форма цяперашняга часу: *Раніца ўбіраецца ў сілу. З засмяглымі ад сну гарлячкамі жаўранкі ўзнімаюцца ў неба. Глытаюць чыстую свежасць, дружна заліваюцца. Недзе з-пад пагоркаў выкочваецца аранжавы бохан сонца. Высокія яліны мачаюць у чырвань свае вяршаліны* (Л. Калодзежны). Дастаткова ў першым сказе замяніць «убіраецца» на «ўбіралася», і падобных змен запатрабуюць дзеясловы ва ўсіх наступных сказах. Гэта адно з праяўленняў кантэкставых сувязей.

Граматычны кантэкст назіраем і ў тым выпадку, калі наступны сказ пэўным спосабам уключае ў сябе інфармацыю папярэдняга, напрыклад: *Бацька прыехаў ранкам. Прыезд бацькі абудзіў дом.* Або: *Бацька прыехаў ранкам. Гэта абудзіла дом.* Трансфармацыя *бацька прыехаў→ прыезд бацькі* ў першым выпадку, а таксама паяўленне анафарычнага займенніка *гэта* — вынік і паказчык кантэкставай сувязі двух сказаў.

Асабліва істотную ролю адыгрывае кантэкст у семантыцы — як у сферы граматыкі, так і ў галіне лексічных значэнняў. Напрыклад, толькі ў першым з двух знешне аднолькава пабудаваных сказаў *Браты спыніліся* і *Браты абняліся* магчыма замена на адзіночны лік: *Брат спыніўся.* У другім сказе так зрабіць нельга, бо семантыка слова «абняцца» патрабуе толькі сукупнага, множнага, не адзінкавага суб'екта. Яшчэ прыклад. Мікракантэксты *ісці лесам* і *любавацца лесам* (семантыка-сінтаксічныя адрозненні паміж дзеясловамі) дазваляюць убачыць, што першае *лесам* мае прасторава-акалічнаснае значэнне, а другое — прадметна-аб'ектнае.

Варта адзначыць, што паняцце кантэксту найчасцей сустракаецца з выкарыстаннем паўназначных адзінак мовы — слова, фразеалагізма, сказа. Пры гэтым пад кантэкстам разумеюць закончаны ўрывак вуснага ці пісьмовага тэксту, які дазваляе вызначыць сэнс слова або выразу, што ўваходзяць у гэты ўрывак. Так, толькі ў кантэксце размяжоўваюцца, становяцца сэнсава яснымі значэнні шматзначных слоў, пераносныя значэнні, амонімы і г. д., параўнаем: *родная старонка* і *старонка часопіса; свежы хлеб* і *вугаль — хлеб прамысловасці; торба з кутасамі* і коласава: *Эй ты, там, торба з кутасамі! Якога чорта гэта смаліш? Ты мне вагон увесь разваліш! Пакінь курыць...*

Апошні прыклад паказвае, што паняцце кантэксту прыдатнае не толькі ў лінгвістычным, але і ў літаратуразнаўчым сэнсе. І гэта не выпадкова, бо літаратуразнаўства вывучае таксама слова і спецыфічныя законы, па якіх з цаглінак слоў будуюцца гмахі тэкстаў — мастацкія творы. Кантэкст (у літаратуразнаўчым сэнсе) здольны вызначаць і змест мастацкага выказвання, і яго падтэкст, і стылістычную афарбоўку. Па-за кантэкстам часта немагчыма вызначыць сэнс метафары, наяўнасць іроніі, аўтарскую пазіцыю і г. д. Парушэнне кантэкставых сувязей разбурае адзінства, цэласнасць тэксту, яго глыбінную семантыку, звязаную з мастацкім вобразам.

Трэба яшчэ прыгадаць, што існуе і больш шырокае разуменне кантэксту: кантэкст — гэта і тыя пазамоўныя абставіны, у якіх адбываецца канкрэтны акт маўлення. У такіх выпадках гавораць пра сітуацыйны кантэкст, або кансітуацыю. Прачытаем наступны ўрывак з рамана М. Лынькова «Векапомныя дні»: *Мы з панам Кохам атрымалі інфармацыю з Мінска, што ўсе гэтыя ўзрывы з паравозамі на вашай дарозе робяцца нейкім таемным партызанскім атрадам чыгуначнікаў пад камандаваннем... так, так...— зірнуў Вейс у цыркуляр,— пад камандаваннем нейкага няўлоўнага... дзядзі Косці. Дарэчы, пан Заслонаў, што гэта за чын такі — дзядзя? Лейтэнант? Капітан? Палкоўнік?* Чаму Вейс дае такое тлумачэнне слову «дзядзя»? Ён зыходзіць менавіта з кансітуацыі: на вайне перад імем чалавека часцей за ўсё ўжываецца слова, што абазначае пэўны чын. Разам з тым у гэтым кантэксце выяўляюцца і аўтарскія — саркастычныя — адносіны да адмоўнага героя.

У сучасным мовазнаўстве (асабліва такіх яго кірунках, як псіхалінгвістыка, структурная лінгвістыка) шырока выкарыстоўваецца яшчэ адзін тэрмін, звязаны з паняццем кантэксту,— прэсупазіцыя (англ. presuppose дапускаць, меркаваць; заключаць, змяшчаць у сабе; presupposition меркаванне). Прэсупазіцыя — гэта як бы «вертыкальны кантэкст», г. зн. тыя веды чалавека (і моўныя і пазамоўныя), што неабходны для таго, каб уключыцца ў разуменне пэўнай размовы, усіх яе структурна-сэнсавых кампанентаў. Прэсупазіцыя дазваляе нам ствараць і ўспрымаць зусім новыя выказванні і разумець больш, чым змяшчаюць слова, сказ, тэкст як бы самі па сабе.

Кантэкставыя сувязі фармальных і сэнсавых адзінак — адметная і істотная рыса мовы як знакавай сістэмы і маўлення як творчай камунікатыўнай дзейнасці чалавека.

*Літ.:* Сахарный Л. В. Введение в психолингвистику. Л., 1989; Колшанский Г. В. Контекстная семантика. М., 1980; Зарубина Н. Д. Текст: Лингв. и метод. аспекты. М., 1981; Кифер Ф. О пресуппозициях // Новое в зарубежной лингвистике. М., 1978. Вып. 8.
*А. Я. Міхневіч.*

## КАНЦЫЛЯРСКА-ЮРЫДЫЧНАЕ ПІСЬМЕНСТВА 15—17 СТАГОДДЗЯЎ

Пад канцылярска-юрыдычным пісьменствам разумеюцца старажытныя пісьмовыя дакументы юрыдычнага характару, якія сваім прызначэннем і зместам звязаны з палітычным і гаспадарчым жыццём дзяржавы або асобных сацыяльных слаёў ці прыватных асоб. У гэтым сэнсе канцылярска-юрыдычнае пісьменства проціпастаўляецца такім жанрам старажытнай пісьмовай спадчыны, як мастацка-літаратурныя, публіцыстычныя і рэлігійныя творы, летапісы, статуты, мемуары, дзённікі, запіскі падарожнікаў і інш. У навуковым ужытку побач з назвай «канцылярска-юрыдычнае пісьменства» ўжываюцца і тэрміны «дзелавое» або «актавае» пісьменства. Зародкі канцылярска-юрыдычнага пісьменства ўсходніх славян адносяцца да эпохі Кіеўскай Русі, калі зносіны старажытнарускай дзяржавы з замежнымі краінамі афармляліся адпаведнымі пісьмовымі дакументамі. У той час княжацкія падараванні пераважна цэрквам і манастырам таксама пацвярджаліся дакументамі, якія зваліся граматамі. Такія граматы ад старажытнасці да пачатку 15 ст. пісалі на пергаменце — скуры маладых ягнят ці цялят, апрацаванай асобым спосабам. На Беларусі з канца 14 ст. для грамат ужывалі і прывазную паперу. З 1530-х гг. дакументы пісалі ўжо на паперы мясцовай вытворчасці. У 2-й палавіне 15 ст. ў беларускай мове слова «грамата» як назва дакумента пачало замяняцца словам «листъ». У беларускім канцылярска-юрыдычным пісьменстве раней, чым у іншых жанрах, сталі прымяняць скарапіснае пісьмо замест ранейшага паўустава. Да 15 ст. актавае пісьменства на Беларусі было прадстаўлена пераважна гандлёвымі дагаворамі, даравальнымі, купчымі, менавымі і прысяжнымі граматамі. У велікакняжацкай канцылярыі ствараліся дакументы дзяржаўнага значэння больш шырокага зместу. Яны сталі асновай гістарычнага архіва, вядомага пад назвай Метрыка Вялікага княства Літоўскага (Літоўская метрыка). У канцы 18 ст. метрыка мела ўжо больш за 600 тамоў дакументаў. Тамы Метрыкі падзяляюцца на пасольскія, прывілеяў, дэкрэтаў, данін, судовых спраў, запісаў, публічных спраў, арэндаў і інш. У склад Метрыкі ўваходзяць разнастайныя дакументы, якія выдаваліся каралямі і вялікімі князямі, сеймамі і ўрадавымі асобамі або паступалі да іх ад іншаземных урадаў, ад мясцовых службовых і прыватных асоб. Дзякуючы гэтаму Метрыка

уяўляе сабой крыніцу звестак пра самыя разнастайныя бакі жыцця і гісторыі Вялікага княства Літоўскага ад канца 14 да канца 18 ст. Матэрыялы Метрыкі да сярэдзіны 17 ст. пісаліся пераважна на беларускай мове, пазнейшыя — на польскай і лацінскай мовах (цяпер большая частка кніг Метрыкі захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве). На працягу 15—1-й палавіны 17 ст. самай шырокай сферай выкарыстання беларускай мовы было канцылярска-юрыдычнае пісьменства. Яно стваралася ў гарадскіх, земскіх і замкавых судах, у гарадскіх управах, магістратах і магдэбургіях. Беларускай мовай карысталіся пры напісанні дэкрэтаў сеймаў і Галоўнага Літоўскага трыбунала, пры правядзенні вопісаў войска, рэвізій і інвентарызацый гарадоў, замкаў, маёнткаў і іншых уладанняў, у дыпламатычнай і прыватнай перапісцы. На беларускай мове пісаліся і найважнейшыя юрыдычныя дакументы ў каралеўскіх канцылярыях Кракава і Варшавы, прызначаныя для Вялікага княства Літоўскага. Да сярэдзіны 17 ст. беларуская мова выкарыстоўвалася таксама ў канцылярыях і судах на тэрыторыі этнічнай Літвы. Створаныя ў той час актавыя дакументы ахопліваюць самыя разнастайныя бакі тагачаснага палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця беларускага народа амаль за 4 стагоддзі. Яны адлюстроўваюць зносіны Вялікага княства Літоўскага з Расіяй, Польшчай, Крымам, Малдовай і Турцыяй, змяшчаюць звесткі пра структуру і ўзбраенне войска, пра гарады і мястэчкі, склад і заняткі іх жыхароў, даюць апісанні маёмасці феадалаў, гараджан і сялян, сродкаў транспарту, пабудоў, мэблі, адзення, харчу і г. д. У параўнанні з іншымі жанрамі старабеларускага пісьменства мова дзелавых дакументаў найбольш блізкая да жывой тагачаснай беларускай мовы, у іх практычна адсутнічаюць царкоўнаславянскія граматычныя і лексічныя сродкі. Для гісторыі беларускай мовы асабліва каштоўнымі з'яўляюцца разнастайныя судовыя запісы, у якіх паказанні істцоў і сведак — гэта бліскучыя ўзоры жывой народна-дыялектнай мовы. У актавым пісьменстве адлюстраваны такія разрады лексікі, якія ў іншых жанрах або адсутнічаюць, або прадстаўлены толькі адзінкавымі словамі. Вельмі цікавымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца такія дакументы, як прывілей вялікага князя літоўскага Аляксандра ад 7 кастрычніка 1498 г. Полацку на магдэбургскае права і пацвярджальная грамата на гэты прывілей вялікага князя Жыгімонта I ад 27 жніўня 1509 г. Гэтыя дакументы даюць яскравы малюнак сацыяльнага і гаспадарчага жыцця аднаго з найбуйнейшых на той час беларускіх гарадоў. У іх названы практычна ўсе прадстаўнікі тагачаснага гарадскога насельніцтва па пасадах, службовым становішчы, веравызнанні: *бискупъ, бояринъ, бурмистръ, войтъ, воевода, врядникъ, державца, децкий, дедичъ, заказникъ, игуменъ, князь, купецъ, лентвойтъ, маршалокъ, мещанинъ, наместникъ, огородникъ, панъ, писаръ, подворникъ, подсудокъ, попъ, проводникъ, продавецъ, путникъ, радца, резникъ, ремесленикъ, секретарь, скоморохъ, староста, судья, чернецъ*. У пацвярджальнай грамаце Жыгімонта I пералічваюцца «ремесники места Полоцкого золотари и кушнеры, кравци, седлари, римари, ковали, слесары, шевци, сыромятники, кожемяки, гончари, пивовары, тесли, мурали, дряголи, столяры, то есть скринники и всякого ремесла». У кірмашныя дні ў Полацку прадаваліся футры *(белка, горностай, куница, ласица, норица, соболь, тхоръ)*, сыравіна, рэчы і металы *(воскъ, попелъ, смола, соль, ножи, секиры, железо, медь, мосяжъ, олово, цына)*. Жыхары горада мелі магчымасць купляць прывазныя прыправы *галганъ, гвоздику, имберъ, мигдалъ, мушкатъ, перецъ, розинки, фиги, цытваръ, шафранъ*, з напіткаў — *вино, медъ, пиво*. Адзінкамі мер тавараў былі *бочка, камень, кошъ, лаштъ, полуберковескъ, поставъ, тузина, фунтъ, цетнаръ, штука*. Цікавы і пералік будынкаў грамадскага карыстання: *важница, воскобойня, капница, крамница, млынъ, ратуша, суконница, домъ гостиный, клетка мясная, клетка хлебовая, комора пострыгальная, лазня посполитая, ятка мясная, ятка хлебовая*. У іншых дакументах можна знайсці поўны пералік назваў палявых і агародных культур, свойскіх жывёл, прадметаў хатняга ўжытку, адзення і г. д. Уяўленне пра лексічны склад актавых дакументаў дае судовы запіс 1516 г. з Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, дзе змешчаны спіс рэчаў, не атрыманых маршалкам Аляксандрам Салтанавічам ад спадчыннікаў былога апекуна. Сярод адзення тут называюцца *бурка, летникъ, торлопъ белинный, торлопъ горностайный, торлопъ куний, шапка белинная, шапка оксамитная, шуба белинная, шуба горностайная, шуба кунья, шуба соболья*. Для вытворчасці гэтых рэчаў былі выкарыстаны тканіны і футры *адамашка, белка, бобръ, камка, китайка, оксамитъ, отласъ, полотно, соболь, сукно, тафта*. Відавыя разнавіднасці гэтых тканін вызначаліся адпаведнымі прыметнікамі: *адамашка гвоздиковая, адамашка серая, адамашка синяя, адамашка черчатая, китайка бурнатная, китайка жолтая, оксамитъ серый, оксамитъ чорный, отласъ бурнатный, отласъ черленый, сукно синее, сукно черленое*. З прадметаў хатняга ўжытку ў спісе ўпамінаюцца *коверъ, ковшъ, котелъ, кубокъ, лихтарь, ложка, паневъ, полавочникъ, ручникъ, скатерть, талеръ*; з прадметаў туалету і ўпрыгожанняў — *брамка, запона, ланцугъ, монисто, перстень*. Для ўпрыгожвання адзення і хатніх рэчаў выкарыстоўваліся *золото, серебро* і *перла*. З прадуктаў харчавання ўпамінаюцца *жито, мёдъ, мука, солодъ*. Адзінкамі мер служылі: для тканіны — *поставъ* і *локоть*, для немалочанага жыта — *копа, стогъ* і *стырта*, для змалочанага — *бочка, полубочекъ*, для мёду — *вшатокъ, ведро* і *кадь*. Гэты разрад старажытнага пісьменства дае найбольш матэрыялу для гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Канцылярска-юрыдычнае пісьменства змяшчае багаты матэрыял па гісторыі ўласных імён і геаграфічных назваў, многія з якіх не захаваліся да нашага часу. У актавым пісьменстве ўжывалася вялікая колькасць юрыдычных тэрмінаў лацінскага паходжання — назваў з'яў грамадска-палітычнага жыцця, працэсаў, дзеянняў, дакументаў і г. д.: *абдикация, администрация, алегация, амбиция, апеляцыя, апробация, артыкулъ, атестация, афектация, бациция, верификация, видимусъ, декретъ, делиберация, деляция, деспектъ, децизия, документъ, експедиция, ексцесъ, елекция, инвентаръ, инструкция, интродукция, интромисия, информация, канцелярия, квитация, комисия, конституция, конфедерация, коронация, либертация, лимитация, облигация, параграфъ, презентъ, прерогатива, претекстъ, привилей, протекция, протестъ, публикация, ревизия, реестръ, тестаментъ, трактатъ, цедула, цирографъ, юрисдикция*. Значная колькасць лацінізмаў актавага пісьменства звязана з назвамі людзей па прафесіях і службовых пасадах у юрысдыкцыі: *авдиторъ, адверсаръ, администраторъ, акторъ, ассесоръ, депутатъ, дигнитаръ, екзаменаторъ, екзекуторъ, економъ, комисаръ, посесоръ, факторъ, фундаторъ*. У актавым пісьменстве адзначаецца таксама вялікая колькасць дзеясловаў лацінскага паходжання, што наогул з'яўляецца сведчаннем моцнага ўплыву лацінскай мовы на беларускую: *авизовати, администровати, актиковати, алеговати, апелевати, апробовати, афектовати, ваковати, визитовати, вотовати, депутовати, информовати, лимитовати, продуковати, пропоновати, фундовати*. Пералічаныя лацінізмы ўжываліся пераважна ў актавым пісьменстве, у іншых жанрах лацінскія словы выкарыстоўваліся радзей. У юрыдычных дакументах больш позняга часу трапляюцца нават лацінскія словаспалучэнні і фразеалагізмы, у сувязі з чым такія тэксты маюць макаранічны стыль выкладу. Але галоўнае адрозненне гэтага роду пісьменства ад іншых жанраў пісьмовай мовы — гэта наяўнасць вялікай колькасці

спецыфічных канцылярска-юрыдычных тэрмінаў, стандартных зачынаў і канцовак (так званых фармуляраў) тыпу *смотрели есмо того дела, стояли передъ нами очевисто, билъ намъ чоломъ* і інш. У канцы дакумента заўсёды адзначаецца дзе, калі і кім ён напісаны, хто пры гэтым прысутнічаў («а при томъ были»). Нават самі дакументы ў залежнасці ад зместу, прызначэння і адрасата мелі вельмі разнастайныя назвы. Напрыклад, толькі ў адной кнізе караля Стэфана Баторыя 1583—85 гг., якая ўваходзіць у склад Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, дакументы маюць больш за 30 назваў: *варунокъ, видымусъ, вольность, вписанье, вызволенье, выреченье, вырокъ, дарованье, декретъ, делъ, записанье, зложенье, зоставенье, контроверсыя, оповеданье, отосланье, пильность, позволенье, подкладанье, потверженье, привилей, присуженье, продажа, протестацыя, пущенье, рознятье, скасованье, сознанье, списанье, справа, уведенье, угода, фундованье.* Грамадскія і асабістыя адносіны паміж людзьмі рэгламентаваліся разнастайнымі дакументамі, у якіх агульнае значэнне «листъ» канкрэтызавалася адпаведнымі прыметнікамі: *листъ баницыйный, веновный, врядовый, вызволеный, вызнаный, господарский, граничный, даровный, дельчий, едналъный, железный, завитый, закупный, записный, заповедный, заручный, заставный* і г. д. (у актавых дакументах выяўлена каля 50 такіх назваў). У актавым пісьменстве Вялікага княства Літоўскага беларуская мова ўжывалася да сярэдзіны 16 ст. Аднак ужо ў гэты час у сувязі з нарастаючай паланізацыяй у канцылярска-юрыдычнае пісьменства пачала пранікаць і польская мова. Таму ў Статут 1566 г. быў уключаны спецыяльны пункт аб ужыванні ў справаводстве толькі беларускай мовы: «а писарь земский па руску маеть литэрами и словы рускими вси листы и позвы писати, а не инъшым языком и словы» (раздзел IV, артыкул 1). Гэты ж пункт быў захаваны і ў друкаваным Статуце 1588 г., хоць каталіцкай царкве гэтым кодэксам дазвалялася ўжываць і польскую мову. Практычна ўжыванне польскай і лацінскай моў пачалося ў канцы 16 ст. і ў сярэдзіне 17 ст. афіцыйнае актавае пісьменства на беларускай мове фактычна спыніла сваё існаванне. Але дакументы прыватнага характару пісаліся на беларускай мове і пазней. Актавыя матэрыялы на польскай і лацінскай мовах таксама маюць значную гістарычную вартасць. Большасць актавых дакументаў 15—17 ст. захоўвала сваю юрыдычную сілу на працягу доўгага часу. Гэта асабліва датычылася дакументаў на спадчыну і на іншыя прывілеі вярхоў і сярэдніх слаёў грамадства. Таму актавыя кнігі старанна зберагаліся. Статутам Вялікага княства Літоўскага 1588 г. (раздзел 4, артыкул 13) прадпісвалася ваяводскім, павятовым і замкавым судам мець асобныя будынкі і складаць там дакументы ў спецыяльныя скрыні з трыма замкамі, прычым ключ ад аднаго замка захоўваўся ў суддзі, ад другога — у падсудка (памочніка суддзі), ад трэцяга — у судовага пісара. Кожная з гэтых асоб абавязана была запячатаць скрыню ўласнай пячаткай. Такія меры абмяжоўвалі магчымасць крадзяжу або падмену дакументаў. Тым не менш значная частка старажытнага актавага матэрыялу беззваротна загінула ў час шматлікіх войнаў, стыхійных бедстваў, рэлігійнай барацьбы паміж прыхільнікамі праваслаўя і каталіцызму. Пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі ў канцы 18 ст. старажытныя актавыя матэрыялы паступова трацілі сваё практычнае значэнне. Затое цяпер яны сталі для даследчыкаў найважнейшай крыніцай звестак па сацыяльнай, эканамічнай і культурнай гісторыі беларускага народа мінулых стагоддзяў. Узнікла неабходнасць публікацыі старажытнага актавага матэрыялу, каб зрабіць яго даступным шырокаму колу даследчыкаў. На працягу 1-й палавіны 19 ст. розныя прыватныя асобы і навуковыя ўстановы выдалі каля 15 тамоў старажытнага актавага матэрыялу. Асабліва інтэнсіўна публікатарская дзейнасць разгарнулася ў 2-й палавіне 19 ст., калі для гэтых мэт былі створаны спецыяльныя навуковыя ўстановы. У 1852 г. ўрадавым указам быў створаны Віленскі цэнтральны архіў старажытных актаў, куды на працягу наступных дзесяці гадоў былі прывезены 18 243 тамы старажытных рукапісных дакументаў з гарадоў і мястэчак Віленскай, Гродзенскай, Мінскай і Ковенскай губерняў. Матэрыялы Віленскага архіва публікавала Віленская археаграфічная камісія. На працягу 1865—1915 гг. яна выдала 49 тамоў старажытных актаў. Крыху пазней узнік Віцебскі цэнтральны архіў старажытных актаў, куды паступіла 1896 актавых кніг з Віцебскай і Магілёўскай губерняў. З 1871 да 1906 г. гэты архіў выдаў 32 тамы старажытных дакументаў. Беларускія актавыя матэрыялы цэлымі серыямі або асобнымі тэматычнымі зборнікамі публікавалі таксама навуковыя ўстановы Пецярбурга і Масквы. Работа гэта працягваецца і цяпер. Усяго ад пачатку 19 ст. да нашага часу выдадзена каля 150 тамоў, у якіх змешчаны дзесяткі тысяч разнастайных дакументаў па гісторыі Беларусі. Усе гэтыя матэрыялы маюць выключнае значэнне для гісторыкаў, прававедаў, этнографаў, мовазнаўцаў і ўсіх іншых спецыялістаў, хто займаецца вывучэннем гістарычнага мінулага беларускага народа. Аднак значная частка старажытнай актавай спадчыны ляжыць яшчэ некранутай у архівах і кнігасховішчах розных гарадоў, чакаючы свайго часу і даследчыкаў.

*Публ.:* Акты, относящиеся к истории Западной России... Т. 1—5. Спб., 1846—53; Акты Виленской археографической комиссии. Т. 1—39. Вильно, 1865—1915; Археографический сборник документов, относящихся к истории северо-западной Руси... Т. 1—14. Вильно, 1867—1904; Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилёвской... Т. 1—32. Витебск, 1871—1906; Литовская метрика // Русская историческая библиотека. Спб., 1903. Т. 20; Спб., 1910. Т. 27; Юрьев, 1914. Т. 30; Птр., 1915. Т. 33; Беларускі архіў. Т. 1—3. Мн., 1927—30; Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. Т. 1—4. М., 1977—82.

*Літ.:* Бережков Н. Г. Литовская метрика как исторический источник. М., 1946; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Журавский А. О канцелярском языке Великого княжества Литовского // Ежегодник истории Литвы. Год 1983. Вильнюс, 1984. С. 17—32. *А. І. Жураўскі.*

## КАНЮШКЕВІЧ МАРЫЯ ІОСІФАЎНА



Беларускі мовазнавец М. І. Канюшкевіч нарадзілася 7 лістапада 1943 г. ў в. Погіры Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Доктар філалагічных навук (1991), прафесар (1991). У 1964 г. скончыла факультэт педагогікі і методыкі пачатковага навучання, у 1975 г.— філалагічны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы. Настаўнічала. У 1975 г.— асістэнт кафедры рускай мовы Гродзенскага педагагічнага інстытута, у 1976—79 гг.— аспірантка Белдзяржунівер-

сітэта, у 1979 — выкладчык, у 1980—92 гг.— загадчык кафедры рускай мовы, з 1992 г.— дэкан філалагічнага факультэта Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы.

М. І. Канюшкевіч абараніла кандыдацкую дысертацыю «Атрыбутыўныя адносіны ў складаназалежным сказе (на матэрыяле рускай і беларускай моў)» і доктарскую па тэме «Супастаўляльнае даследаванне сінтаксісу складанага сказа ў рускай і беларускай мовах», што стала значным крокам да стварэння супастаўляльнай функцыянальнай граматыкі абедзвюх моў. Большасць з яе навуковых прац (усіх каля 70) прысвечана даследаванню беларускага сінтаксісу ў параўнанні з рускім, метадыцы супастаўлення блізкародных моўных сістэм, пытанням эквівалентнасці выразных сродкаў на розных узроўнях руска-беларускіх моў, міжмоўнай інтэрферэнцыі, руска-беларускіх узаемаперакладаў.

М. І. Канюшкевіч выявіла нацыянальную спецыфіку апорных слоў і сродкаў сувязі ў беларускім складаным сказе (Тыпалогія граматычнай структуры атрыбутыўнага складанага сказа ў беларускай і рускай мовах // Бел. лінгвістыка. Мн., 1981. Вып. 19; Да характарыстыкі ацэначна-тлумачальнага сказа ў беларускай мове // Тамсама. 1983. Вып. 23). Ёй належыць апісанне сродкаў мовы (больш за 750), якія ўжываюцца ў якасці злучнікаў. Многія з іх, асабліва састаўныя злучальныя спалучэнні тыпу *не тое каб... а проста* ці *калі нават і не ... то ўжо ва ўсякім выпадку*, зафіксаваны ўпершыню, хоць існуюць у беларускай мове даўно (Сінтаксіс блізкародных моў: Тоеснасць, падабенства, адрозненні. Мн., 1989; на рускай мове).

Даследчыца паказала, што ілюзія тоеснасці рускага і беларускага сінтаксісу перашкаджае бачыць эквівалентнасць сродкаў, якія знаходзяцца на розных узроўнях моўных сістэм: дзеепрыметнік і даданая частка або дзеяслоўная ці іменная словаформы, спрагальная форма дзеяслова і даданая частка, іменная словаформа і прэдыкатыўная адзінка (Прэдыкатыўная адзінка як беларускі аналаг рускага дзеепрыметніка // Рус. мова: Міжвед. зб. Мн., 1981. Вып. 2; Адно з праяўленняў інтэрферэнцыі на сінтаксічным узроўні // Граматычная інтэрферэнцыя ў варунках нацыянальна-рускага двухмоўя. М., 1990).

У коле навуковых інтарэсаў М. І. Канюшкевіч — пытанні беларускага моўнага этыкету і адлюстравання яго ў беларускай мастацкай літаратуры (Моўны этыкет у апавяданнях М. Гарэцкага: КамунікаНты // Першыя Гарэцкія чытанні. Горкі, 1992; Асаблівасці беларускага моўнага этыкету ў параўнанні з рускім і польскім // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства. Віцебск, 1990; Зваротак у паэмах Янкі Купалы // Валадар роднага слова. Гомель, 1992).

Традыцыйнымі сталі арганізаваныя па ініцыятыве М. І. Канюшкевіч навуковыя чытанні ў Гродзенскім універсітэце, прысвечаныя Я. Ф. Карскаму.

*Тв.:* Словесная и фразовая номинация в русско-белорусском взаимопереводе // Русский язык: Межвед. сб. Мн., 1984. Вып. 3; К созданию сопоставительной русско-белорусской функциональной грамматики. Тез. докл. Мн., 1990; Параўнальна-супастаўляльны сінтаксіс у «Беларусах» Я. Ф. Карскага // Са спадчыны акадэміка Я. Карскага: Навук. чыт. да 130-годдзя з дня нараджэння. Гродна, 1991; Функцыянальна-семантычны дыяпазон злучніка *абу (абы)* у гаворках Тураўшчыны (у параўнанні з адпаведнікамі ў беларускай літаратуры) // Гомельшчына: Народная духоўная культура і дыялекты, тапанімія: Матэрыялы рэг. навук. канф., прысвечанай 850-годдзю летапіснага ўпамінання Гомеля. Гомель, 1992.

*Л. М. Малініна.*

## КАРАТКЕВІЧ УЛАДЗІМІР СЯМЁНАВІЧ



У. Караткевіч нарадзіўся 26 лістапада 1930 г. ў Оршы. У 1954 г. ён скончыў Кіеўскі універсітэт імя Т. Р. Шаўчэнкі. Настаўнічаў. Першы верш надрукаваў у 1955 г. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа 1983 г. (за раман «Нельга забыць»), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа 1984 г. (за раман «Чорны замак Альшанскі»). Памёр 25 ліпеня 1984 г.

Празаік, паэт, драматург, сцэнарыст, эсэіст, публіцыст, перакладчык, літаратурны крытык Уладзімір Караткевіч пакінуў багатую літаратурную спадчыну. Але ў беларускай літаратуры яму наканавана застацца перадусім заснавальнікам нацыянальнага гістарычнага рамана, бо ў мастацкім адлюстраванні свету пісьменнік ішоў найперш ад гісторыі сваёй Айчыны, свайго народа. Ідэя нацыянальнага адраджэння прадвызначыла жанрава-тэматычную скіраванасць яго творчасці. А рамантычнае ўспрыняцце мінулага паўплывала на фарміраванне індывідуальнага пісьменніцкага стылю, які характарызуецца раскаванасцю думкі, эмоцый.

Рамантычна-ўзнёслая манера пісьма У. Караткевіча характэрная і для яго прозы, і для паэзіі, і для драматургіі. Таму нярэдка проза пісьменніка максімальна набліжаная да верша ў прозе (аповесць «Чазенія», апавяданне «Сіняя-сіняя», казка «Скрыпка дрыгвы й верасовых пустэчаў»), публіцыстыка і эсэістыка мяжуе з ліра-эпічнымі апісаннямі (зборнік «Зямля пад белымі крыламі»). Відаць, з гэтае прычыны даследчыкі мовы пісьменніка імкнуцца выявіць пераважна агульныя моўна-стылістычныя асаблівасці яго творчай манеры без абавязковай праекцыі на пэўны літаратурны жанр.

Сістэма вобразных сродкаў У. Караткевіча гарманічна скампанаваная. Разнастайныя тропы — эпітэты, метафары, параўнанні, сімвалы, алегорыі і іншыя — пісьменнік удала выкарыстоўвае ў іх узаемадзеянні, пазбягаючы празмернага расквечвання мовы: *І мы прыехалі ў невялічкую вёску, усю аточаную лесам, усю патопленую садамі і шатамі вялізных дрэў, нібы апушчаную на дно зялёнага мора, нібы паглыбленую ў зялёны і трохі аранжавы ад заранкі паўзмрок.*

*Быў мяккі вечар. Даўно асеў пыл ад чарод (а можа яго і не было? Можа каровы і начавалі ў лесе?) Шэрыя хаты з тайшчэзных бярвенняў насунулі на самыя вушы цёплыя шапкі стрэх. Драмалі або марылі пад песні* («Дрэва вечнасці»). У гэтым апісанні зрокавую вобразнасць ствараюць індывідуальна-аўтарскія эпітэты (вёска *аточаная, патопленая, апушчаная, паглыбленая*; паўзмрок *зялёны, трохі аранжавы*), аўтарскія метафары *(хаты драмалі, марылі)*, перыфразы *(насунулі на самыя вушы цёплыя шапкі стрэх)*. Майстэрскае ўжыванне зрокава някідкіх апісанняў абуджае нечакана моцнае эмацыянальнае перажыванне. Няма празмернага выкарыстання тропаў нават у першым зборніку вершаў У. Караткевіча «Матчына душа», з яго павышанай суб'ектыўнасцю, жаданнем выказаць паэтычнае і грамадзянскае крэда праз вобраз лірычнага героя, паяднанага з асобай аўтара: *У векавечнай бацькаўшчыне клёны // Нячутна пачынаюць аблятаць // На рыжую траву, на мох зялёны, // На весніцы, на ціхі стаў, на гаць, // Зямля глядзіць* ***азёрамі-вачыма*** *// На* ***ясны*** *свет, што* ***стыне*** *у красе. // Як чыста, бы святло абшары вымыла, // Як ціха — быццам зніклі людзі ўсе*

(«У векавечнай бацькаўшчыне клёны»).

Адметнае ў паэтычнай мове У. Караткевіча — персаніфікацыя назоўнікаў, найчасцей тэматычнай групы «радзіма», калі паэт звяртаецца да цэнтральнага вобраза ўсёй сваёй творчасці — вобраза Беларусі: ***О радзіма, мой светач цудоўны, адзіны, // Мой агністы снягір на сасне...*** («Снягір»); *Зямля дзядоў! Гудуць на ліпах пчолы...* («Зямля дзядоў»); *Беларусь мая, сонца, // Дарагая і родная маці!* («Паўлюк Багрым»); *Адвечная мая! У сцюдзёных росах...* («У векавечнай бацькаўшчыне клёны...»).

Паказальнае ў творчасці У. Караткевіча і выкарыстанне слоў-сімвалаў, што ўвасабляюць Беларусь. У ранніх вершах адчуваецца арыентацыя на творчае асваенне традыцыйнай народнай сімволікі — перавага аддаецца назвам раслін, дрэў, якія выступаюць у ролі слоўнавобразных знакаў: *бярозак белая сям'я, бярозкі ствол усхвалявана тонкі, зялёны явар, спрадвечныя дубы, каліна, клён, крушына.* З уласных сімвалічных вобразаў трэба адзначыць такія: *кветка маці, матчына душа.* Скразны ў творчасці пісьменніка вобраз бусла як сімвала Беларусі. Гэтае слова-сімвал трансфармавалася ў вядомую перыфразу *зямля пад белымі крыламі.*

Сістэму мастацкай вобразнасці, абумоўленую найперш фальклорна-рамантычным падыходам не толькі да гістарычных, але і сучасных падзей, дапаўняюць традыцыйныя таўталагічныя зачыны *(Трубяць трубы ў Гародні...)*, інверсійная будова словазлучэнняў і сказаў *(зямля Беларуская, хадзем вайною вялікаю)*, клічныя формы звароткаў *(княжа, хлопча, Яне)* — «Паэма пра Явар і Каліну».

Адчуванне слова, уменне раскрыць яго патэнцыяльныя семантычныя і стылістычныя магчымасці праяўляецца найперш праз індывідуальна-аўтарскія метафары, параўнанні. Пацвярджэнне гэтаму — функцыяніраванне дзеяслоўнай метафары ў ролі выказніка: *груша кіпела, млела, раскашавалася* («Каласы пад сярпом тваім»). Наследуючы традыцыі Янкі Купалы, У. Караткевіч імкнуўся да рамантычна-фальклорных абагульненняў, якія найлепш увасабляюцца ў форму разгорнутых метафар — крылатых выразаў: *Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай моваю* («Каласы пад сярпом тваім»); *Яешню есці закон нікому не забараняе* («Трызненне мужыцкага Брэйгеля»); *Маўчанне адназначным не бывае* («З амбона хтось крычаў пра шлях да раю...»); *Так грамадства з адным нешчаслівым каштуе не болей лайна* («Што такое ёсць справядлівасць...»); *А будучыня парасткам належыць* («Дуб»); *Тых, хто носіць небасхіл у сэрцы // Нельга ні уджаліць, ні забіць* («Рэчка папараць»); *Мяне пахаваюць людзі, лепшыя за мяне* («Мой век»); *У вяршыні самых гонкіх дрэў маланка з неба б'е* («На Беларусі бог жыве»); *Але вечна тваім застанецца // Толькі тое, што ты аддаў* («Разведчык»); *Гамер і лірычныя песні не старэюць* («Дрэва вечнасці»).

Імкнучыся да маштабнасці абагульненняў, У. Караткевіч уводзіў у кантэкст паэтычных твораў традыцыйныя эпітэты: *адвечная мова, неўміручыя песні, шырокі Днялро.* Але індывідуальна-аўтарскае бачанне свету і чалавека праяўляецца праз характарыстычныя эпітэты тыпу *ціхія, іскрыстыя, пастражэлыя, рахманыя вочы; калючая сястра; гладкі брат; пячорны мозг; плоскія галовы; умытая цішыня; вішнёвыя хаты; калматае сонца.*

Прадуктыўны троп у творах пісьменніка — параўнанне. Даследчыкі адзначаюць, што яго «функцыянальная спецыялізацыя» шматгранна праявілася ва ўсіх жанрах. Яскрава рэалізуецца параўнальны зварот *(плоскі,* ***як праснак,*** *гарадок; ложак,* ***як поле бою*** *пад Койданавам; казкі,* ***як трапёткія пралескі,*** *пякучыя,* ***як маланкі,*** *загадкавыя,* ***як лясны агонь****)*.

У. Караткевіч дае ўзоры актуалізацыі, сэнсава-лагічнага выдзялення ў сказе метафар, эпітэтаў, разгорнутых параўнанняў: *У кратэры сямтам пачыналі ўставаць слупы цёплага туману.* ***Варушыліся*** («Барвяны шчыт»); *Недзе там, за пустыняй, за морам, была другая зямля. І ён не мог без яе. Яе не было тут, але яна была, з атлусцелымі панамі, з бяздушнымі ўладарамі душ, з хлуснёй, са спаласаванымі мужыкамі, з апляванай, забароненай мовай.* ***Але яшчэ і з паплавамі, і з сінімі вербалозамі на берагах рэк. Няхай няшчасная, няхай забітая і абылганая, але свая, найлепшая ў свеце, сіняя, чыстая, як першае каханне, да якога не прыліпне ніякі бруд, як бы ён ні цягнуўся*** («Сіняя-сіняя...»). Парцэляцыя як стылістычны прыём, які дазваляе падкрэсліць, узмацніць пэўныя элементы выказвання — нярэдкая з'ява ў мастацкай прозе У. Караткевіча.

Легендарнае і рэальнае ў творчасці У. Караткевіча гарманічна перапляятаецца, ствараючы цэласны мастацкі сплаў. Асабліва выразна гэта праяўляецца ў творах на гістарычную тэматыку. Узнавіць каларыт, атмасферу беларускага грамадства «часоў мінулых» памагло пісьменніку бездакорнае веданне нашай мінуўшчыны і, натуральна, глыбокае, а часам віртуознае валоданне словам пры апісанні гістарычных падзей, этнаграфічных і бытавых падрабязнасцей. Найпершая ўвага — гістарызмам і архаізмам. Аўтар не здымае толькі верхні пласт старажытнай лексікі, а ўводзіць такія словы, якія даюць уяўленне пра ўзаемадзеянне і ўзаемаўплыў розных пластоў старажытнай беларускай мовы (спрадвечных і запазычаных, агульнаўжывальных і стылістычна афарбаваных слоў): *каптуровы суддзя* 'суддзя, які выбіраўся дваранамі падчас смуты або міжцарства', *нобіль* 'прадстаўнік знаці, арыстакрат', *чакан* 'від старажытнай зброі'.

Выкарыстанне дыялектызмаў як выразнага стылістычнага сродку даследчыкамі мовы У. Караткевіча не адзначаецца. У яго творах не знайшлі выразнага адбітку рысы паўночна-ўсходняга дыялекту, прадстаўніком якога з'яўляецца пісьменнік. На гэта былі свае прычыны. Асоба У. Караткевіча фарміравалася пад уплывам трох моўных стыхій: беларускай у дзяцінстве, рускай — падчас эвакуацыі на Урал у вайну, украінскай — у гады вучобы ва універсітэце і педагагічнай працы на Украіне. Менавіта Кіеў, Украіна, лічыць А. С. Ліс, звярнулі позірк паэта ў родны бок: «...Караткевіч вяртаўся з Украіны паэтам і паэтам беларускім усімі памкненнямі сваёй душы, творчай натуры. У гэтым ён несвядома паўтарыў шлях свайго земляка Францішка Багушэвіча» (Маладосць. 1988. № 4. С. 159). Таму пачатак творчасці У. Караткевіча быў ускладнены неабходнасцю перавучвацца, вяртацца да забытага: «Т. Вялюгін кажа пра маю кепскую мову. Я гэта сам ведаю, але ж скуль мне яе ўзяць, добрую мову? Я выжываю памылкі, але проста з крывёю. Орша адносна мовы наогул не запаветная зямля. Там шмат русіцызмаў, там блытаюць канчаткі роднага і, часам, меснага склону і г. д. ...літаратурную мову я ўсё ж ведаю кепска» (Пачатак: Лісты Уладзіміра Караткевіча да Максіма Танка // Маладосць. 1987. № 1. С. 160).

Сапраўды, у ранніх творах пісьменніка сустракаюцца русізмы *жаркі, шуба, міма, стучаць*, нехарактэрныя для беларускай мовы дзеепрыметнікавыя формы ***сохнучая*** *рыбная луска;* ***адзвінеўшыя*** *стагоддзі;* ***буйнаравучае*** *полымя*, небеларускія сінтаксічныя канструкцыі *адыходзіў* ***к*** *ценям; мангва — вялізная кошка, магутная, смелая,* ***больш ільва.*** Але храналагічны разгляд твораў У. Караткевіча дае выразнае ўяўленне пра яго моўную эвалюцыю. Пара сталасці і творчага росквіту засведчылі ў асобе У. Караткевіча «аднаго з самых таленавітых майстроў літаратуры» (В. Быкаў), які пакінуў нам літаратурную класіку, узорную і па літаратуразнаўчых, і па мовазнаўчых мерках.

Як арыгінальны мастак слова У. Караткевіч праявіў сябе і ў словатворчасці. Сярод любімых яго наватвораў — прыметнік *прыўкрасны*, як выражэнне найвышэйшай ступені гармоніі і прыгажосці. Паводле частотнасці выкарыстання можна меркаваць, што сярод найбольш любімых

слоў пісьменніка быў прыметнік *гожы* і дзеяслоў *распавядаць (распавесці)*.

Выразнай адметнасцю характарызуецца сінтаксіс мастацкіх твораў У. Караткевіча. Гарманічнае адзінства сінтаксічных фігур-паўтораў, пропускаў, абрываў, паралелізмаў, кантрастаў, рытарычных пытанняў адпавядае духоўнай сутнасці то няўрымсліва-задзірыстай, то элегічна-засяроджанай натуры самога пісьменніка: *Выліваха ўсміхнуўся... Што ведала гэтая бязвокая дрэнь аб арабіне, якая расце на яго камяніцы, няхай без належнага абшару зямлі, але затое недасяжная для коз? Што ведала яна аб зайцы ў глогавых агароджах, які цаною штодзённых драпін зберагаў у цэласці шкуру? Што ведала яна аб народзе, які жыў насупор і не так і ўзрошчваў шыпы на сваіх карэннях, а не на сцяблінах?* («Ладдзя Роспачы»); *О, туга па радзіме. Хутчэй. Хутчэй. // Сэрца поўніць узлёт нечуваных мар. // Гэта ты, маё шчасце, за морам сінім? // Сэрца! Шчасце! Любоў мая!.. Цемра... Удар...* («Буслы вучаць дзяцей»).

У. Караткевіч прыйшоў у нашу літаратуру з грунтоўным веданнем сусветнай і айчыннай гісторыі і літаратуры. Актыўнае засваенне культурных здабыткаў чалавецтва праявілася ў паэзіі, прозе, драматургіі. Пра гэта могуць сведчыць хоць бы загалоўкі твораў «Ідылія ў духу Вато», «Лятучы Галандзец», «Трызненне мужыцкага Брэйгеля», «Балада пра сыноў Пітакаса», «Наследаванне Байрану», «Новая Атлантыда», «Чурлёніс» і інш. Найперш праз паэзію У. Караткевіча беларуская мова асвоіла значны пласт запазычанняў.

У манаграфіі А. Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» (Лондан, 1985), прысвечанай моўнай сітуацыі на Беларусі і лёсу беларускай мовы, змешчаны артыкул У. Караткевіча «Мова (што я думаю пра цябе)». У ім пісьменнік аналізуе выказванні людзей розных прафесій, нацыянальнасцей і пакаленняў пра стан і перспектыву моўнага развіцця на Беларусі. Вызначаючы свае адносіны да роднай мовы, Караткевіч самаадданa, з высокім гонарам гаворыць пра сваю далучанасць да яе, пра любоў і павагу. Яго абурае духоўная абмежаванасць тых, хто «развенчвае» «выпакутаваныя бацькамі каштоўнасці».

У. Караткевіч з той кагорты пісьменнікаў 1950—60-х гадоў, якія няпростымі, кружнымі дарогамі ішлі да беларускага слова і, аднойчы даверыўшыся яму, служылі аддана і да канца: *І на іншых вяршынях суровых // (Вера! Роўнасць! Свабода! Край!) // Ты струменьчык матчынай мовы, // Быццам маці, не забывай. // ...Сярод іншых святынь неаджыўшых // Дай яе нам на кожны парог, // Твар да нас,— усялякіх — схіліўшы, // З невымернаю літасцю Бог* («Мова»).

Беларускай мове прысвечаны пранікнёныя радкі верша У. Караткевіча «Мова» (Янку Брылю): *І няхай да мяне не прыйдзе вясна, // Песня, шчасце, каханне, спакой,— //Усё адно не змяняю твой чорны праснак // На атруту пшаніцы чужой. // Ты мой ясны хлеб і каханы май, // Без цябе, не з табой — не патрэбен мне рай // На душы. У небясі. На зямлі.*

*Літ.*: Сямёнава А. Гарачы след таленту. Мн., 1979; Чабан Т. К. Крылы рамантыкі. Мн., 1982; Верабей А. Л. Жывая повязь часоў. Мн., 1985; Лебедзеў У. А. Рамантычныя асаблівасці гістарычнай прозы Уладзіміра Караткевіча // Бел. літаратура. Мн., 1987. Вып. 15; Мажэйка Н. С. Некаторыя асаблівасці ўжывання прыметнікаў колеру ў рамане У. С. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» // Весн. БДУ. Сер. 4. 1987, № 2; Іўчанкаў В. І. Метафара як сродак мастацкай вобразнасці ў рамане У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 6; Яго ж. З'ява персаніфікацыі ў творах У. Караткевіча // Тамсама. 1990, № 4; Яго ж. Тыпы параўнанняў у творах У. Караткевіча і іх структура // Бел. лінгвістыка. Мн., 1987. Вып. 32; Яго ж. Стылістычныя своеасаблівасці выкарыстання тропаў у творах У. Караткевіча (параўнанне і метафара) // Тамсама. 1989. Вып. 35; Гіруцкі А. А. Русізмы ў творах У. Караткевіча // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 3.

*В. К. Мароз.*

## КАРПОВІЧ ЛЯВОНЦІЙ

Пісьменнік-публіцыст, педагог, царкоўны дзеяч Лявонцій Карповіч (свецкае імя Лонгін, Логін) нарадзіўся ў 1580 г. ў Пінскім павеце. Скончыў Астрожскую школу на Валыні. З 1613 г. архімандрыт віленскага Святадухаўскага манастыра. Узначальваў навучальную і выдавецкую дзейнасць праваслаўнага брацтва ў Вільні і Еўі, быў рэктарам брацкай школы. Аўтар твораў «Казанне двое...» (Еўе, 1615), «Казанне на пахаванне князя В. В. Галіцына» (у перакладзе на польскую мову; Вільня, 1619), прадмовы да кнігі манаха Фікарыя «Вертаград душэўны» (Вільня, 1620) і інш. Памёр у верасні 1620 г. Памяці Л. Карповіча прысвечана «Казанне на чэснае пахаванне... Лявона Карповіча» М. Сматрыцкага. Ананімная паэма «Лямант на смерць Лявона Карповіча» (1620) паказвае Л. Карповіча як чалавека высокіх маральных якасцей, дзейнага, мужнага і самаахвярнага змагара за веру сваіх продкаў, які заклікаў жыць сумленна і высакародна, свята берагчы нацыянальна-рэлігійныя традыцыі свайго народа.

Казанні Л. Карповіча напісаны прыўзнятым, манерным, тыпова барочным стылем. У аснове яго твораў тагачасная жывая беларуская мова з усімі ўласцівымі ёй фанетычнымі, лексічнымі і граматычнымі рысамі. Сярод іх: зацвярдзенне шыпячых, *ц* і *р* (*жывотъ, зычыл, працы, прыбыток, скоштованы, теперъ*), аканне (*манарха, тады*), афрыката *дж*, якая перадавалася ў рознай арфаграфіі (*прыеждчати*), чаргаванне заднеязычных гукаў з свісцячымі (*в бозѣ, книзѣ*), канчатак *-у* ў родным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду (*прибытку, закону, пожитку, зыску*), канчатак *-ов* у множным ліку (*даров, домов, монархов*), суфікс прыметнікаў *-ейш-* (*преднѣйших, утѣшнейшая, потребнѣйшая*), поўнагалосныя формы (*обо-*



Л. Карповіч. «Два казанні» (тытульны ліст). 1615.



«Лямант на смерць Лявонція Карповіча» (тытульны ліст). 1620.

*лок, солодкость, коротъкое, дорогоцѣнные)* і інш.

Паколькі палемічныя творы Л. Карповіча датычыліся найперш царкоўных спраў, то ў мове іх шырока выкарыстоўваюцца архаізаваныя кніжныя (царкоўнаславянскія) словы і звароты *(пламенныя перси, премирное оное славы, истиннаго, преображения, смерть всеродная, лучами благоразумия)*. Мова твораў Л. Карповіча насычана паланізмамі, пры гэтым нават некаторыя ўласна беларускія словы ўжываюцца ў афармленні, характэрным для польскай мовы: *А яко з маестату славы своей прийти зезволил на тот час, аж впрод был очекиваный, и так до душ наших прийдет, навѣдит и в них ся родити зезволит, кгды впрод будет очекиваный, и того по нас потребует, абысмо впрод приспособяли, абы воздыхание наше так воззывали, абы як там не встыдался в яслях скотнях возлещи и в стайни быдлячой народитися, так и тепер, пришедши до душ наших, в них се родити зезволил, которые суть стайнею быдлячою, вертепом и яслями скотнями* («В неделю пред рожеством Христовым наука блаженного пастыря отца Леона, архимандрита виленского»).

Для мовы твораў Л. Карповіча характэрна пытальна-адказная (катэхізісная) форма, шматлікія рытарычныя фігуры, афарыстычныя зачыны, рэлігійная сімволіка, трапныя параўнанні, паралелі з навакольнага жыцця: *Хто бовьм так великой зацности, хто так знаменитой прерокгативе выбраных божиих не удивится? Хто так гойной того преможного кроля ласце и щодробливости (которое так дорогие и не ошацованые подарки и упоминки выплынули) со страхом и любовию не поклонится? Хто тых так невымовных добродѣйств невдячником быти захочет?; О милое, о вдячное, о веселое, о щастливое, о пожаданное преображение! И хто ж гебе участником быти сподобится?; Тело теды тое, которое умирает в безчестии, явится в тот час в невымовной славѣ. Тѣло тое шпетное* (брыдкае, агіднае) *явится в невымовной пѣнкости. Тѣло, грѣху подлегьлое, явится безгрѣшным. Тѣло сказителное* (тленнае, сапсаванае) *явится несказительным. Тѣло, тежаром обложоное, явится всякого высокопарного орла, лѣгчейшым и быстрѣйшым* («Казанне на ператварэнне госпада бога і спаса нашага Ісуса Хрыста»).

Спалучэнне моўна-выяўленчых сродкаў рознага паходжання, узнёслы, глыбока эмацыянальны і дынамічны тон літаратурнага выказвання надавалі творам Л. Карповіча асаблівую сілу ўздзеяння на чытача або слухача, а іх аўтару — славу непераўзыдзенага прамоўцы, майстра царкоўнага красамоўства.

*Літ.:* Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1. Мн., 1961; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984.

*М. Р. Прыгодзіч.*

## КАРСКІ ЯЎХІМ ФЁДАРАВІЧ



Славуты беларускі філолаг Яўхім Фёдаравіч Карскі, у асобе якога спалучаліся мовавед, літаратуразнаўца, фалькларыст, палеограф, бібліёграф, педагог, грамадскі дзеяч, нарадзіўся 1 студзеня 1861 г. ў сям'і вясковага настаўніка пачатковай школы ў вёсцы Лаша Гродзенскага раёна. Вучыўся ў Ятранскім і Беразавецкім народных вучылішчах, Мінскай духоўнай семінарыі, у 1881—85 гг. у Нежынскім гісторыка-філалагічным інстытуце, які рыхтаваў настаўнікаў для класічных гімназій. Інстытут даў Карскаму не толькі навыкі педагагічнай працы; тут пад кіраўніцтвам прафесара Р. Ф. Бранта ён напісаў сваю першую кнігу, прысвечаную гукаваму ладу і марфалогіі беларускай мовы. Скончыўшы інстытут, Карскі да 1893 г. выкладаў рускую мову і літаратуру, а таксама царкоўнаславянскую мову ў 2-й Віленскай гімназіі. 17 верасня 1891 г. ён паспяхова вытрымаў магістарскі экзамен у Варшаўскім універсітэце. 24 кастрычніка 1893 г. на пасяджэнні вучонага савета Кіеўскага універсітэта абараніў магістарскую дысертацыю па фанетыцы і граматыцы беларускай мовы і стаў штатным выкладчыкам, а праз некаторы час — дацэнтам кафедры царкоўнаславянскай і рускай моў гісторыка-філалагічнага факультэта Варшаўскага універсітэта. 26 чэрвеня 1894 г. ён прызначаны на пасаду экстраардынарнага (пазаштатнага) прафесара кафедры рускай і славянскіх моў і гісторыі літаратуры. 14 снежня 1896 г. на пасяджэнні вучонага савета Маскоўскага універсітэта Карскі паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю пра беларускія пераклады Псалтыра ў 15—17 ст., а 14 лютага 1897 г. Варшаўскі універсітэт прысудзіў яму вучонае званне ардынарнага (штатнага) прафесара. Карскі працягваў чытаць лекцыі па розных лінгвістычных дысцыплінах у Варшаўскім (да 1915 г.), Растоўскім-на-Доне (1915 г.), Петраградскім (з 1916 г.) універсітэтах.

Карскі быў сапраўдным філолагам-энцыклапедыстам. Ён займаўся старажытнымі славянскімі мовамі, палеаграфічнымі асаблівасцямі пісьмовых помнікаў, літаратурай і фальклорам усходніх славян, узаемаадносінамі сучасных славянскіх моў. Але галоўны яго навуковы подзвіг — стварэнне навукі пра беларускую мову. Асобныя працы пра пэўныя з'явы і асаблівасці беларускай мовы друкаваліся і да Карскага (публікацыі К. Ф. Калайдовіча, Ф. С. Шымкевіча, І. А. Нядзёшава, І. І. Насовіча і інш.). Але да канца 19 ст. шматлікія факты і назіранні па беларускай мове не былі абагульнены. Нават не было спробы абгрунтаваць вучэнне пра беларускую мову як раўнапраўную сярод іншых славянскіх моў. Звычайна беларускія моўныя рысы тлумачылі як асаблівасці дыялектаў або гаворак рускай, польскай ці ўкраінскай моў. Абапіраючыся на навуковыя факты, сваімі шматлікімі даследаваннямі ён паказаў, што мова беларускага народа, хоць і вельмі блізкая да суседніх славянскіх моў, мае сваю сістэму, якая развівалася, узбагачалася і ўдасканальвалася ва ўзаемадзеянні з роднаснымі мовамі, але паводле ўласных законаў, што і вызначыла яе сучасную нацыянальную своеасаблівасць.

Для вырашэння гэтай складанай задачы Карскаму спатрэбілася апісаць з лінгвістычнага і палеаграфічнага бакоў асноўныя пісьмовыя помнікі беларускай мовы пачынаючы з 13—14 ст., даследаваць сучасную жывую мову, на якой напісаны літаратурныя творы, разнастайныя мясцовыя гаворкі, зрабіць выбарку з фальклорных, этнаграфічных і дыялекталагічных запісаў, параўнаць факты беларускай мовы з адпаведнымі фактамі рускай, украінскай і польскай моў. Усё гэта ён зрабіў да таго, як приступіў да сістэматызацыі матэрыялаў і выпрацоўкі сваёй канцэпцыі фарміравання беларускай мовы. Як і акадэмікі І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ, Ф. Ф. Фартунатаў, А. І. Сабалеўскі, А. А. Шахматаў, Карскі асаблівае значэнне надаваў вынікам даследаванняў сучасных жывых гаворак, бо ў іх адлюстраваны як старажытныя з'явы, так і мясцовыя агульнанародныя моўныя рысы, характэрныя для перыяду фарміравання беларускай

нацыі. Вызначаючы межы пашырэння беларускай мовы і асобных яе гаворак, Карскі ў 1898—1900 і 1903 гг. прыязджаў з Варшавы на Беларусь. Закончыўшы падрыхтоўчы этап, ён прыступіў да публікацыі асноўнага свайго даследавання — 3-томнай працы «Беларусы» (гл. **«Беларусы» Я. Ф. Карскага**). Па выніках сваіх падарожжаў і дыялекталагічных даследаванняў Карскі ў 1-м томе змясціў 2 карты: «Этнаграфічную карту беларускага племені» і «Этнаграфічную карту беларускага племені. Беларускія гаворкі». Асаблівую каштоўнасць мае другая карта, на якой пазначана тэрытарыяльнае пашырэнне пэўных фанетычных з'яў беларускай мовы і зроблена класіфікацыя беларускіх дыялектаў. На ёй вылучаны паўночна-ўсходні, паўднёва-заходні і сярэдні дыялекты беларускай мовы, адзначаны масіў палескіх гаворак. У аснову класіфікацыі беларускіх гаворак вучоны паклаў такія з'явы, як цвёрдае і мяккае *р*, моцнае і ўмеранае аканне, цоканне, саканне, дыфтонгі, паланізмы і інш. З гэтай карты (1903) у беларускім мовазнаўстве пачалася новая навуковая галіна — лінгвістычная геаграфія, якая ў наш час дасягнула значных поспехаў (гл. **«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы»**).

Апісанню сістэмы беларускай мовы Карскі прысвяціў некалькі раздзелаў 1-га тома «Беларусаў» (асаблівая ўвага ўдзелена слоўнікаваму складу), тры выпускі 2-га тома (гукавы лад, марфалагічныя і словаўтваральныя асаблівасці, сінтаксічныя з'явы) і асобныя параграфы 3-га тома (заўвагі пра мову фальклорных і літаратурных твораў). Даўшы навуковае тлумачэнне асноўных з'яў беларускай мовы, Карскі працягваў паглыбленае вывучэнне дыялектных з'яў, мовы старажытных твораў, тэндэнцый развіцця новай літаратурнай мовы ў цеснай сувязі з народнай мовай. Жывучы ў Петраградзе, Карскі цікавіўся развіццём беларускага мовазнаўства і актыўна ўключыўся ў абмеркаванне пытанняў нармалізацыі мовы, распрацоўкі новых арфаграфічных правіл, навуковай тэрміналогіі, укладання тлумачальнага і гістарычнага слоўнікаў і г. д. У апошнім выпуску «Беларусаў» (1922 г.) Карскі прапанаваў цэлую праграму лексікаграфічнай працы на Беларусі. Першачарговай задачай ён лічыў падрыхтоўку поўнага слоўніка сучаснай беларускай мовы, каб у ім «зарэгістраваць тыя багацці, якімі валодае беларуская мова». Для выканання гэтай грандыёзнай задачы вучоны рэкамендаваў прыцягнуць усіх знаўцаў і аматараў беларускага слова, стварыць лексікаграфічныя камісіі са спецыялістаў навукова-даследчых устаноў. Беларус па паходжанні, Карскі ўсё сваё жыццё прысвяціў вывучэнню беларускага народа, яго мовы, вуснай творчасці і літаратуры. У спісе яго прац налічваецца больш за 1000 публікацый, сярод іх шмат грунтоўных даследаванняў (манаграфій), вучэбных дапаможнікаў для сярэдняй і вышэйшай школ, навуковых дакладаў, публічных выступленняў, крытыка-бібліяграфічных артыкулаў і г. д. Вялікі ўклад унёс ён і ў вывучэнне стараславянскай (царкоўнаславянскай), рускай, украінскай і польскай моў, стварыў працы па славянскай кірылаўскай палеаграфіі.

Карскі заўсёды быў у рэчышчы навуковых філалагічных праблем, перапісваўся з айчыннымі і замежнымі філолагамі, мясцовымі карэспандэнтамі, якія збіралі матэрыялы беларускіх гаворак па акадэмічнай праграме. У 1902 г. ён выступіў з дакладам па актуальных праблемах беларусазнаўства на XII Археалагічным з'ездзе ў Харкаве, у 1903 г. ўдзельнічаў у рабоце Папярэдняга камітэта па арганізацыі правядзення Міжнароднага з'езда славістаў, у 1924 г. быў удзельнікам Першага міжнароднага з'езда славянскіх географаў і этнографаў у Празе, дзе яго, як выдатнага вучонага, віталі дэлегаты ўсіх славянскіх краін. У 1926 г. ён камандзіраваны ў паўднёваславянскія краіны для азнаямлення з рэдкімі пісьмовымі помнікамі і наладжвання сувязей з філалагічнымі ўстановамі і вучонымі-славістамі.

Карскі быў выдатным арганізатарам універсітэцкай і акадэмічнай навукі. Яго двойчы выбіралі на пасаду рэктара Варшаўскага універсітэта (1905 і 1908 гг.), а з пераездам у 1916 г. ў Петраград ён з'яўляўся членам Праўлення і Прэзідыума Акадэміі навук, дырэктарам Музея антрапалогіі і этнаграфіі, старшынёй Слоўнікавай камісіі і Камісіі па рускай мове, членам камісіі «Навука і навуковыя работнікі». У 1905—15 гг. ён быў рэдактарам самага буйнога філалагічнага часопіса «Русский филологический вестник», пазней рэдагаваў акадэмічныя часопісы «Известия Отделения русского языка и словесности», «Известия по русскому языку и словесности», а таксама публікацыі старажытных помнікаў. Яго плённая шматгранная дзейнасць атрымала прызнанне навуковай грамадскасці: у 1901 г. ён быў абраны членам-карэспандэнтам, а ў 1916 г.— акадэмікам Расійскай Акадэміі навук. У 1929 г. Карскі стаў і акадэмікам Чэшскай Акадэміі навук.

Пра вялізны аўтарытэт Карскага сведчыць і тое, што ў 1898 г. ён быў абраны членам-карэспандэнтам Таварыства аматараў старажытнага пісьменства, у 1914 г.— ганаровым членам Гісторыка-філалагічнага таварыства пры Новарасійскім універсітэце, у 1925 г.— ганаровым членам Таварыства аматараў расійскай славеснасці, у 1927 г.— ганаровым членам Таварыства пісьменства і мастацтва.

Навуковыя заслугі Карскага адзначаны ўзнагародамі Акадэміі навук і навуковых таварыстваў: залатым медалём (1894), палавіннай Ламаносаўскай прэміяй (1901), залатымі медалямі імя К. М. Бацюшкава (1898, 1902), прэміямі імя К. М. Бацюшкава


Е. Ѳ. Карскій.

МАТЕРІАЛЫ

для

ИЗУЧЕНІЯ БѢЛОРУССКИХЪ ГОВОРОВЪ.

**Я. Ф. Карскі. «Матэрыялы для вывучэння беларускіх гаворак» (вокладка). 1808.**


Е. Ѳ. КАРСКІЙ.

КЪ ИСТОРІИ

ЗВУКОВЪ и ФОРМЪ

БѢЛОРУССКОЙ РѢЧИ

ВАРШАВА

**Я. Ф. Карскі. «Да гісторыі гукаў і форм беларускай мовы» (вокладка). 1893.**

(1910) і імя В. В. Ахматава (1913). З прац Карскага, адзначаных медалямі або прэміямі, асобай увагі заслугоўваюць падрабязная рэцэнзія на 2 тамы (1887—93) выдання П. В. Шэйна «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю», рэцэнзія на этнаграфічны зборнік Е. Р. Раманава (1904), кнігі «Узоры славянскага кірылаўскага пісьма з X да XVIII стагоддзя» (1912), «Нарыс славянскай кірылаўскай палеаграфіі» (1913), «Беларусы» (т. 1—2). Памёр Яўхім Фёдаравіч Карскі 29 красавіка 1931 года.

*Літ.:* Рамановіч Я. М., Юрэвіч А. К. Бібліяграфія прац Я. Ф. Карскага // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. 1961. Вып. 8; Баркоўскі В. І. Заснавальнік беларускага мовазнаўства і беларускай філалогіі: (Да 100-годдзя з дня нараджэння акад. Я. Ф. Карскага) // Тамсама; Булахов М. Г. Евфимий Фёдорович Карский: Жизнь, научная и общественная деятельность. Мн., 1981. *М. Г. Булахаў.*

## КАСПЯРОВІЧ МІКАЛАЙ ІВАНАВІЧ



Беларускі мовазнавец М. І. Каспяровіч нарадзіўся 22 мая 1900 г. ў в. Ізабалёва Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Скончыўшы ў 1921 г. Мінскі інстытут народнай асветы, працаваў інструктарам Беларускага аддзела Народнага камісарыята асветы БССР, а з лістапада 1922 г. школьным інспектарам Слуцкага, са жніўня 1924 г. Віцебскага акруговых аддзелаў народнай асветы. Шмат увагі аддаваў грамадскай дзейнасці: выступіў ініцыятарам стварэння Віцебскай філіі літаратурнага аб'яднання «Маладняк» і Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства і быў старшынёй першай арганізацыі і вучоным сакратаром другой. У верасні 1926 г. М. І. Каспяровіч адкліканы ў Мінск і прызначаны навуковым сакратаром Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце і сакратаром краязнаўчага часопіса «Наш край». Беспадстаўна абвінавачаны ў буржуазным нацыяналізме, 29 чэрвеня 1930 г. арыштаваны. 10 красавіка 1931 г. прыгавораны да 5 гадоў лагера. Пакаранне адбываў на лесараспрацоўках у Кемераўскай вобласці. З красавіка 1936 г. выкладаў рускую мову і літаратуру ў тэхнікуме сувязі і тэорыю літаратуры ў Новасібірскім педінстытуце. 28 жніўня 1937 г. арыштаваны паўторна і 26 снежня расстраляны ў Новасібірску.

Навуковая дзейнасць М. І. Каспяровіча працягвалася ўсяго восем гадоў, але была вельмі плённай. За гэты перыяд ён апублікаваў больш за 230 прац — манаграфій, рэцэнзій, навуковых інфармацый — па пытаннях краязнаўства, мастацкай літаратуры, жывапісу, архітэктуры, тэатра, асветы. Значнае месца сярод іх займае і беларускае мовазнаўства. Ён з'яўляецца аўтарам шэрага лінгвістычных артыкулаў і двух слоўнікаў — «Беларуска-расійскага слоўнічка» (1925) і «Віцебскага краёвага слоўніка» (1927).

«Беларуска-расійскі слоўнічак» быў укладзены на матэрыяле першых шасці выпускаў «Беларускай навуковай тэрміналогіі» (1922—24), «Невялічкага беларуска-маскоўскага слоўніка» (1921) М. Гарэцкага, «Беларускага лемантара» (1922) С. Некрашэвіча і навейшай паслякастрычніцкай беларускай мастацкай літаратуры. Рэестравая частка слоўніка налічвае 1748 слоў. Сярод іх побач з агульнаўжывальнымі беларускімі літаратурнымі словамі часта сустракаюцца і навуковыя тэрміны штучнага ўтварэння, і вузкамясцовыя дыялектызмы. Пераклад іх на рускую мову зроблены ўдала, і толькі ў пасобных выпадках дапушчаны сэнсавыя недакладнасці. «Беларуска-расійскі слоўнічак» пры недахопе іншых даведнікаў адыграў станоўчую ролю ў справе беларусізацыі навучальных і культурна-грамадскіх устаноў Віцебшчыны, толькі што далучанай да БССР.

Грунтоўным паводле зместу і навуковай апрацоўкі з'яўляецца «Віцебскі краёвы слоўнік» — першы з серыі краёвых слоўнікаў, запланаваных Інбелкультам. Змяшчае 9703 словы, зафіксаваныя ў 591 населеным пункце былой Віцебскай акругі. Раёны прадстаўлены населенымі пунктамі так: Езярышчынскі — 40, Бешанковіцкі — 96, Віцебскі — 39, Высачанскі — 19, Гарадоцкі — 28, Кузняцоўскі — 98, Лёзненскі — 27, Мяжанскі — 17, Сенненскі — 97, Сіроцінскі — 59, Суражскі — 24, Чашніцкі — 47. Слоўнік уключаў і словы агульнабеларускія, што атрымалі права літаратурнай нормы, і словы дыялектныя. Колькасна пераважаюць апошнія. Асобнымі артыкуламі пададзены некаторыя фразеалагічныя, адвербіялізаваныя і выклічнікавыя спалучэнні. Загалоўныя словы прыводзяцца ў зыходных формах з указаннем націску, аднак на правах самастойных лексічных адзінак вылучаюцца ў асобныя артыкулы ўсе дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу і формы вышэйшай ступені параўнання і суб'ектыўнай ацэнкі суфіксальнага ўтварэння якасных прыметнікаў. Загалоўныя словы забяспечаны граматычнымі паметамі: пры дзеясловах, прыназоўніках, злучніках і выклічніках — указанне на часціну мовы, пры назоўніках — указанне на род і зборнасць. Да назоўнікаў мужчынскага роду дадаецца канчатак роднага склону адзіночнага ліку. Значэнні слоў і ўстойлівых словазлучэнняў раскрываюцца рускімі лексічнымі адпаведнікамі, а пры адсутнасці іх — апісальна на рускай мове. Да мясцовых назваў раслін, жывёл, птушак, рыб, насякомых і паўзуноў, акрамя рускіх адпаведнікаў, прыводзяцца і лацінскія навуковыя тэрміны. Кожнае значэнне слова праілюстравана прыкладамі звязнага тэксту з указаннем раёна і населенага пункта, у якім яны запісаны. Своеасаблівы дадатак «Віцебскага краёвага слоўніка» — «Слоўнічак уласных найменняў» (1927), які налічвае 290 мужчынскіх і жаночых беларускіх мясцовых імён з рускімі адпаведнікамі.



**М. І. Каспяровіч. «Беларуска-расійскі слоўнічак» (вокладка). 1925.**

Свой вопыт працы над «Віцебскім краёвым слоўнікам» М. І. Каспяровіч абагульніў у інструкцыі «Як сабраць і ўкласці слоўнік мовы свайго раёна» (1928), ухвалены Слоўнікавай і Дыялекталагічнай камісіямі Аддзела гуманітарных навук Інбелкульта і




**М. І. Каспяровіч. «Віцебскі краёвы слоўнік» (вокладка). 1927.**

рэкамендаваны ў якасці практычнага дапаможніка мясцовым краязнаўцам. Разам з М. Азбукіным ён распрацаваў яшчэ інструкцыю «Як укласці геаграфічны слоўнік» (1928). Сабраныя М. І. Каспяровічам новыя лексічныя матэрыялы, а таксама запісы вуснай народнай творчасці і некаторыя завершаныя навуковыя працы не былі ў свой час выдадзены і пасля арышту аўтара загінулі.

*Літ.:* Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навук. дзейнасці. Мн., 1985. *І. К. Германовіч.*

## «КАТЭХІЗІС» С. БУДНАГА

«Катэхізіс» С. Буднага — першая друкаваная рэлігійная кніга на беларускай мове. Яе аўтар і выдавец Сымон Будны (1530—1593) у гісторыі беларускай культуры вядомы як гуманіст, рэфармацыйны дзеяч, асветнік, філосаф, сацыёлаг, філолаг і гісторык. «Катэхізіс» (ад грэч. katēchēsis настаўленне, павучанне) быў надрукаваны Будным з Л. Крышкоўскім і М. Кавячынскім у 1562 г. ў Нясвіжы. У гэтым жа годзе Будны выдаў на беларускай мове кнігу «Апраўданне грэшнага чалавека перад богам». Усе свае пазнейшыя творы Будны пісаў і выдаваў на польскай мове.

«Катэхізіс» выдадзены на ўзор кніг Ф. Скарыны. Ён складаецца з прысвячэння князям Радзівілам, прадмовы, асноўнага тэксту і пасляслоўя. Шрыфт «Катэхізіса» імітуе скарынаўскі. У Буднага, як і Скарыны, шырока ўжываюцца дублетныя літары: для абазначэння аднаго і таго ж гука выкарыстоўваюцца літары розных абрысаў, напрыклад, галосныя *а, е, і, о, у, я*, зычныя *з* і *т*.

«Катэхізіс» пабудаваны ў выглядзе кароткіх пытанняў і разгорнутых адказаў. У адказах Будны выкладаў сваё разуменне сутнасці хрысціянскіх догматаў і прапаноўваў свае рэкамендацыі па іх ажыццяўленні. У адказах выкарыстаны шматлікія цытаты з розных рэлігійных крыніц на царкоўнаславянскай мове. Аднак цытатны матэрыял не выдзяляецца якімі-небудзь спецыяльнымі друкарскімі сродкамі і фактычна зліваецца з беларускім аўтарскім тэкстам. Па гэтай прычыне мова «Катэхізіса» знешне стварае ўражанне мяшанай царкоўнаславянска-беларускай. Калі ж аддзяліць выкарыстаныя Будным цытаты, то мова аўтарскага тэксту выступае як тыповая тагачасная беларуская навуковая мова, хоць яна яшчэ не свабодная ад царкоўнаславянскага ўплыву. У галіне арфаграфіі асабліва выдзяляюцца шматлікія напісанні з адсутнасцю ётацыі ў спалучэннях галосных: *въсеати, деаніе, каание, чаание.* Гэта арфаграфічная рыса, звязаная з так званым другім паўднёваславянскім уплывам, часта адлюстроўваецца ў формах назоўнікаў ніякага роду роднага склону *(подобиа, покааниа, учениа)* і асабліва ў прыметніках, займенніках і парадкавых лічэбніках назоўнага склону жаночага роду *(вышшаа речь, другаа часть, онаа справа, простаа тварь, пятаа заповедь, самаа правда, таковаа война)*. Уплывам старажытнай арфаграфіі тлумачыцца і штучнае абазначэнне мяккасці шыпячых і *р*, што зусім не адпавядала жываму беларускаму вымаўленню. Гэта арфаграфічная рыса назіраецца ў розных катэгорыях слоў: у каранях некаторых назоўнікаў і дзеясловаў *(чюдо, обрюсъ, нарюшити)*, у вінавальным склоне назоўнікаў жаночага роду *(верю, игрю, душю, надежю)* і асабліва ў дзеясловах 1-й асобы адзіночнага ліку *(вижю, прошю, хочю)* і 3-й асобы множнага ліку *(берють, кажють, пишють, грешять, держять, личять, служять, учять)*. Такіх напісанняў не ведаюць іншыя тагачасныя помнікі старабеларускага пісьменства.

Уплывам царкоўнаславянскай мовы трэба тлумачыць шматлікія формы назоўнікаў назоўнага склону множнага ліку са змяненнем заднеязычных у свісцячыя (другая палаталізацыя заднеязычных) — *врази, грешници, друзи, иноци, пророци, ученици, языци*, якія ўжываюцца побач з заканамернымі беларускімі формамі тыпу *враги, еретики, законники, ремесники, урадники.* Яркай царкоўнаславянскай рысай з'яўляецца таксама частае ўжыванне дзеепрыметнікаў цяперашняга часу з фармантам -*щ*- тыпу *верующий, горящий, живущий, любящий, обидящий, плавающий, просящий, судящий, хотящий.* На фоне такіх пануючых форм дзеепрыметнікі беларускага ўтварэння накшталт *говорачий, ходячий, чинячий, чуючий* выглядаюць малапашыранымі.

Прыкметнай варыянтнасцю вылучаюцца формы дзеясловаў 1-й асобы множнага ліку. Асноўнымі тут выступаюць формы з традыцыйным канчаткам -*мъ: ведаемъ, веруемъ, жадаемъ, маемъ, мовимъ, можемъ, просимъ.* Другое месца па колькасці ўжыванняў займаюць формы з дыялектным канчаткам -*мо: бежемо, жичимо, можемо, пиемо, просимо, чуемо.* Нарэшце, у цяперашнім часе і загадным ладзе трапляецца і канчатак -*мы*, запазычаны з польскай мовы: *видимы, обачмы, пометуймы, просимы, читамы.* Цікава, што ў прысвячэнні князям Радзівілам, якім пачынаецца «Катэхізіс», ужываецца форма інфінітываў на -*ть: быть, выдать, давать, множить, обецать, ожидать, урадить.* Але такой формы зусім няма ў асноўным тэксце помніка, дзе захоўваюцца традыцыйныя інфінітывы на -*ти*, напрыклад: *дети родителем своим повинни служити, любити, слухати, надъ тое живити, приодевати и всякую вчасность чинити.* Інфінітывы наогул вельмі шырока выкарыстоўваюцца ў помніку, служаць асноўным сродкам выражэння розных прадпісанняў.

У слоўнікавым складзе помніка яшчэ адчувальны царкоўнаславянскі пласт, які наогул быў уласцівы тагачаснай беларускай пісьмовай мове, напрыклад, назоўнікі *адъ, блаженство, бракъ, брашно, десница, жертва, иго, мзда, чадо, юнота*, дзеясловы *порицати, обещати, узрети, уповати* і інш. Аднак аснову яго складае беларуская лексіка рознага паходжання і фанетыка-марфалагічнага афармлення. Напрыклад, у помніку яўна пераважаюць беларускія поўнагалосныя формы *голова, голодъ, голосъ, городъ,*



**С. Будны. «Катэхізіс» (тытульны ліст). 1562.**

*дерево, золото, колодезь, норовъ, оборона, полонъ, сторона.* У аўтарскім тэксце помніка пераважаюць беларусізмы і паланізмы, якія сталі ўжывацца ў беларускай мове задоўга да Буднага: назоўнікі *валька, взоръ, вырокъ, выхованье, дочка, здрада, зацность, злочинца, каранье, клопот, маетность, матка, мова, моцъ, отказъ, пилность, помста, праца, пытанье, речь, скутокъ, справа, цнота, члонокъ, шкода;* прыметнікі *вдячный, зацный, лепший, окрутный, опричный, певный, статочный;* дзеясловы *бачити, валчити, гамовати, дяковати, жадати, залежити, заховати, личити, мовити, мордовати, мусити, ницовати, обецати, опатрити, отпочивати, паметовати, пилновати, полевати, ратовати, робити, розмовляти, розумети, сведчити, слухати, уживати, утратити, уфати, ховати, шацовати, шкодити;* прыслоўі *велми, власне, досыть, звлаща, згола, латве, обфите, певне, пилно, снадне;* злучнікі *або, абы, бо, чи.*

«Катэхізіс» Буднага вылучаецца своеасаблівым спосабам тлумачэння ўстарэлых або запазычаных слоў. Такія словы аўтар тлумачыць непасрэдна ў тэксце адпаведнымі лексічнымі сродкамі беларускай мовы. Пры гэтым іншамоўнае слова або тлумачыцца адпаведным беларускім, або пры беларускім слове змяшчаецца іншамоўны адпаведнік. Такія прыёмы садзейнічалі павышэнню лінгвістычнага ўзроўню чытачоў: *благодареніе или дякованье, брашно или корменіе, взоръ или образъ, врачь то есть лекарь, гасло или вызнанье, греки або еллини, миръ або пакой, миръ або светъ, обрусъ или скатерть, плоть або тело, речь или вещь, тираннъ или мучитель.*

У помніку шырока выкарыстоўваюцца разнастайныя прыёмы рыторыкі, якія надаюць асаблівую красамоўнасць і эмацыянальнасць выкладу: *вже тогды отецъ не отецъ, але чужый, господаръ не госпадаръ, але розбойникъ, пастырь не пастырь, але волкъ, ангелъ не ангелъ, але діаволъ.* Імкнучыся, напрыклад, больш дакладна перадаць сутнасць якой-небудзь думкі, аўтар шырока ўжывае сінанімічныя члены сказа, што дазваляе паўней выказаць тое ці іншае меркаванне: *правый хрістіанинъ маеть любов, котораа по апостолу не завидить, не пеняеть, не гордится, не злообразуется; не ищеть своих речей, не дражнится, не вменяеть злого, не радуется о неправде, радует же ся истинне, все любить, все терпить.*

«Катэхізіс» С. Буднага адыграў значную ролю ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы, з'явіўся ўзорам для далейшага выкарыстання яе ў рэлігійнай сферы ў канцы 16 і на працягу першай палавіны 17 ст.

*Літ.:* Парэцкі Я. І. Сымон Будны. Мн., 1975; Подокшин С. А. Скорина и Будный: Очерк философских взглядов. Мн., 1974; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967. С. 187—201. *А. І. Жураўскі.*

## КІРЫЛА ТУРАЎСКІ



**Кірыла Тураўскі. Малюнак А. Кашкурэвіча.**

Старажытнабеларускі пісьменнік і прамоўца, дзеяч хрысціянскай царквы эпохі Кіеўскай Русі, першы епіскап Тураўскай епархіі (не пазней 1169 г.) Кірыла Тураўскі нарадзіўся каля 1130 г. (па іншых меркаваннях у 1110-я гады) у г. п. Тураў. Яго свецкае імя невядома. Адукацыю атрымаў у родным горадзе, тагачаснай сталіцы Турава-Пінскага княства, відаць, ад грэка-візантыйскіх і мясцовых настаўнікаў. Памёр каля 1182 г.

На аснове дасканалага вывучэння Біблії, раннехрысціянскай літаратуры, антычнай паэтыкі і рыторыкі, візантыйскай рэлігійнай паэзіі і традыцый айчыннай культуры выпрацаваў самабытны стыль урачыстага царкоўнага красамоўства. Яго творчасць — найвышэйшае дасягненне старажытнай усходнеславянскай літаратуры ў жанры аратарскай прозы, якая пазней заняпала і зноў адрадзілася ў творчасці беларускіх пісьменнікаў-палемістаў 17 ст. (С. Зізаній, М. Сматрыцкі, Л. Карповіч) і Сімяона Полацкага. На думку І. П. Яроміна, Кірылу належаць 8 «слоў» — пропаведзяў, або царкоўных «сказанняў» («Слова Кірылы, нявартага манаха, на святы вялікдзень...», «Слова Кірылы блажэннага на вербніцу...», «Таго ж грэшнага манаха слова аб паралізаваным, ад Быцця і падання евангельскага...», «Слова пра божы страх», «Слова пра другое прышэсце», «Слова пра лентарствы», «Аб кніжным чытанні» і інш.), аповесці-прытчы («Кірылы манаха прытча пра чалавечую душу і цела...», «Аповесць Кірылы, манаха шматгрэшнага... пра беларызца і манаства» і інш.), 30 малітваў і некалькі канонаў. Паэтычны талент пісьменніка яскрава выявіўся ў гэтых творах, асабліва ў жанры «слова». Ужо сучаснікі называлі Кірылу Тураўскага «Златоустом, паче всех воссиявших нам на Руси», яго «словы» ўключаліся ў анталогіі лепшых узораў візантыйскага красамоўства («Златоуст», «Торжественник»). Асобныя яго творы ўвайшлі ў выдадзенае І. Фёдаравым і П. Мсціслаўцам «Евангелле вучыцельнае» (Заблудаў, 1569), «Малітвы паўсядзённыя» (Еўе, 1615), іншыя беларуска-літоўскія выданні 16—17 ст. Пісьменнік імкнуўся не павучаць, а мастацкімі сродкамі раскрываць сутнасць той ці іншай рэлігійна-маральнай праблематыкі, у форме намаляванай словамі карціны ўзнавіць перад слухачамі тую ці іншую падзею новазапаветнай гісторыі. Ён шырока выкарыстоўваў артыстычна апрацаваныя прыёмы іншасказання, алегорыі, сімвалізацыі. Адсюль — жывапісная пластычнасць і напружаны драматызм стылю. Яго творчасць вызначаецца жывым, надзвычай адчувальным да красы прыроды і прыгажосці слова пачуццём, багаццем фантазіі, узнёсласцю вобразаў і шматзначнасцю паэтычных сімвалаў. Вобразы пісьменніка звычайна маюць непасрэдны, рэальна-прыродны і пераносны, духоўны сэнс. Так, напрыклад, малюючы яркімі фарбамі адраджэнне веснавой прыроды, Кірыла Тураўскі бачыць у ёй сімвалічнае ўвасабленне ўваскрэсення Хрыста і духоўнага абнаўлення чалавека праз хрышчэнне: «Ныне солнце красуясь к высоте въсходить и радуяся землю огреваеть,— взиде бо нам от гроба праведное солнце Христос и вся верующая ему спасаеть... Ныня луна с вышняго сътупиши степени болшему светилу честь подаваеть; — уже бо ветъхий закон с суботами преста и пророки Христову закону честь подаеть... Днесь весна красуеться оживляющи земное естьство, и бурьнии ветри тихо повевающе плоды гобьзують, и земля семена питающи зеленую траву ражаеть. Весна убо красная есть вера Христова...» (Труды Отдела древнерусской литературы АН СССР. М.; Л., 1957. Т. 13. С. 416). У аснове кампазіцыі твораў Кірылы Тураўскага — рытарычная ампліфікацыя: тая ці іншая тэма ў яго разгортваецца да таго часу, пакуль яе змест не будзе поўнасцю вычарпаны. Кожная думка яго «слова» набывае форму рытарычнай тырады, а ўвесь тэкст — гэта «ланцужок» тырад. Чаргаванне блізкіх па значэнні і аднатыпных па сінтаксічнай структуры сказаў надае ўсяму тэксту строгую рытмічнасць, прапарцыянальнасць частак і цэлага. Выкарыстоўваюцца прыёмы супастаўлення ўмоўнага і рэальнага. Кожны маналог у пісьменніка па стылістычным ладзе быццам у мініяцюры змяш-

чае ў сабе ўвесь твор цалкам, у ім — тое ж чаргаванне тырад, тая ж народжаная імі рытміка.

На думку даследчыкаў, мова твораў Кірылы Тураўскага — тыпова старажытнарускай разнавіднасці (І. П. Яромін), узор узнёслага, класічнага «кніжна-славянскага» стылю. У пазнейшых спісах яго твораў трапляюцца беларусізмы.

*Літ.:* Памятники российской словесности XII в., изданные с объяснением, вариантами и образцами почерков К. Калайдовичем. М., 1821; Творения святого отца нашего Кирилла епископа Туровского. С предварительным очерком истории Турова и Туровской епархии до XIII в. Киев, 1880; Е р ё м и н И. П. Литературное наследие Кирилла Туровского // Труды Отдела древнерусской литературы. М.; Л., 1955—62. Т. 11—18; М е л ь н і к а ў А. Свяціцель Кірыл, епіскап Тураўскі // Беларусь. 1992. № 3.

*У. М. Конан.*

## КІРЫЛІЦА

Кірыліца — адна з дзвюх старажытных славянскіх азбук. Сваю назву атрымала ад імя славянскага асветніка Кірылы (свецкае імя Канстанцін) Філосафа (каля 827—869). Створана ў 9 ст. на аснове грэка-візантыйскага ўстаўнага пісьма. Адрознівалася ад другой славянскай азбукі — глаголіцы — іншым тыпам і больш простай формай літар. Мела 43 літары: 24 візантыйскага паходжання, 19 створаны ўпершыню. 27 літар выкарыстоўваліся для абазначэння лічбаў. Літарны склад кірыліцы адпавядаў гукавой сістэме старaславянскай мовы.

Паходжанне кірыліцы канчаткова не высветлена. Большасць вучоных лічаць, што менавіта гэта азбука была створана Кірылам і раней за глаголіцу. На думку іншых (І. І. Мешчанінаў, Дз. С. Ліхачоў, Кірыла з'яўляўся стваральнікам глаголіцы, прычым глаголіца папярэднічала кірыліцы. Найбольш старажытныя кірыліцкія помнікі — надпісы на сценах і плітах царквы ў Праславе (9—10 ст., Балгарыя), надпіс на глінянай пасудзіне, знойдзенай пры раскопках курганоў пад Смаленскам (10 ст.), і інш. Першая датаваная кніга, напісаная кірыліцай,— Астрамірава евангелле (1056—57). На працягу некалькіх стагоддзяў кірыліца ўжывалася ў большасці славянскіх краін паралельна з глаголіцай, з 12 ст. выцесніла глаголіцу. З 10 ст. абслугоўвала ўсе тыпы старажытнарускай літаратурнай мовы, выступаючы пераважна ў выглядзе устава. Ад старажытнарускага пісьменства перайшла ў спадчыну старарускаму, старабеларускаму і стараўкраінскаму пісьменствам. У 14—18 ст. кірыліца шырока ўжывалася ў беларускім пісьменстве. У ранні перыяд старабеларуская графіка мела ўсе літары кірыліцы. Аднак у працэсе развіцця беларускай мовы літаратурны склад алфавіта перастаў адпавядаць гукавой сістэме: адпадала патрэба ў дублетных літарах, якія без шкоды для пісьмовых зносін маглі замяняцца адна адной, але працягвалі ўжывацца па традыцыі (о — ѡ, е — є — ѣ, і — и — ѵ, у — ȣ — ѫ, ꙗ — ѧ, з — ѕ, ф — ѳ, ѯ — кси, ѱ — пси), з'явілася неабходнасць у графічных сродках для зычнага j, афрыкаты *дж*, гукаў [о] пасля мяккіх і [е] пасля цвёрдых зычных. Развіццё старабеларускай графікі было звязана з пошукамі найбольш зручных спосабаў перадачы на пісьме асаблівасцей жывой мовы. На беларускай глебе выйшлі з ужытку літары ѫ, ѥ, узніклі новыя графемы э (канец 15 ст.) і *й* (канец 16 ст.), у дзелавым пісьменстве перасталі выкарыстоўвацца ў гукавым значэнні знакі *і*, ѵ, ѯ, ѱ, ѕ, ф, у помніках іншых жанраў сталі трапляцца радзей літары ѵ, ѯ, ѱ, ѕ. Спрашчэнне і ўдасканаленне графічнай сістэмы абумоўлівалася агульным развіццём пісьменства, якое з ростам школ і асветы, пашырэннем грамадскіх функцый пісьмовай мовы пастуова перастала быць манаполіяй царкоўнікаў і стала здабыткам больш шырокіх колаў тагачаснага грамадства. Аднак удасканаленне графікі адбывалася стыхійна, таму дублетныя літары былі абмежаваны ва ўжытку, але не адкінуты.

| *Кірыліца* | | *Грэчаскае ўстаўнае пісьмо* | *Кірыліца* | | *Грэчаскае ўстаўнае пісьмо* |
|---|---|---|---|---|---|
| *Літары і іх назвы* | *Лічбавае значэнне* | | *Літары і іх назвы* | *Лічбавае значэнне* | |
| А — *аз* | 1 | А | Х — *хер* | 600 | Х |
| Б — *букі* | | | Ѡ — *амега* | 800 | Ѡ |
| В — *ведзі* | 2 | В | Ц — *цы* | 900 | |
| Г — *глаголь* | 3 | Г | Ч — *чэрв* | 90 | |
| Д — *дабро* | 4 | Д | Ш — *ша* | | |
| Є — *есць* | 5 | Є | Щ — *шта* | | |
| Ж — *жывеце* | | | Ъ — *ёр* | | |
| Ѕ — *зяло* | 6 | Ѕ | Ꙑ — *еры* | | |
| Ꙁ — *зямля* | 7 | Z | Ь — *ер* | | |
| І — *і* | 10 | І | Ѣ — *яць* | | |
| Н — *іжэ* | 8 | Н | Ю — *ю* | | |
| К — *кака* | 20 | К | Ꙗ — *я* | | |
| Л — *людзі* | 30 | Λ | Ѥ — *е* | | |
| М — *мыслеце* | 40 | М | Ѧ — *юс малы* | | |
| N — *наш* | 50 | N | Ѫ — *юс вялікі* | | |
| О — *он* | 70 | О | Ѩ — *ётаваны юс малы* | | |
| П — *пакой* | 80 | П | Ѭ — *ётаваны юс вялікі* | | |
| Р — *рцы* | 100 | Р | Ѯ — *ксі* | 60 | Ξ |
| С — *слова* | 200 | С | Ѱ — *псі* | 700 | Ψ |
| Т — *тверда* | 300 | Т | Ѳ — *фіта* | 9 | Θ |
| Ѹ — *ук* | 400 | | Ѵ — *іжыца* | | Υ |
| Ф — *ферт* | 500 | Ф | | | |

**Кірыліца.**



**Тураўскае евангелле, напісанае кірыліцай (старонка). 11 ст.**

Развіццё беларускага варыянта кірыліцы, як і іншых усходнеславянскіх, ішло ў кірунку ўдасканалення форм літар і ўвогуле ўсяго пісьма. Значным крокам наперад у параўнанні са старажытнарускім перыядам з'явілася замена устаўнага пісьма паўуставамі (14 ст.), а пасля і скорапісам (15 ст.), дзякуючы чаму намнога паскорыўся працэс пісання. Выдатным дасягненнем старабеларускай графікі было стварэнне беларускім першадрукаром і асветнікам Ф. Скарынай на аснове паўустава друкарскага варыянта алфавіта, які стаў узорам для іншых усходнеславянскіх друкароў. Цікавай з'явай у гісторыі беларускага кнігадрукавання было вынаходніцтва спецыяльнага курсіўнага шрыфту (прапанаваў Грынь Івановіч), які сваёй канфігурацыяй надзвычай удала імітаваў скорапіс 2-й палавіны 16 ст. Гэтым шрыфтам у друкарні Мамонічаў былі надрукаваны «Трыбунал» (1586) і «Статут Вялікага княства Літоўскага» (1588). Тут, такім чынам, намнога раней намецілася тая ж тэндэнцыя, якая пазней, у пятроўскую эпоху, праявілася і ў рускім пісьменстве ў выкарыстанні грамадзянскага алфавіта для літаратуры свецкага зместу.

Працэс удасканалення кірыліцкага алфавіта спыніўся на Беларусі ў 18 ст. па прычыне заняпаду старабеларускага пісьменства. На рускіх жа землях кірыліца развівалася без перашкод. У выніку рэформы Пятра I у 1708 г. быў створаны (удзельнічаў беларус Ілья Капіевіч) грамадзянскі шрыфт, які пазней стаў асновай сістэм пісьма большасці народаў былога СССР. Грамадзянскі шрыфт стаў асновай і новага беларускага пісьменства. Выпрацаваны ў выніку кантамінацыі рускага грамадзянскага шрыфту са старабеларускім варыянтам кірыліцы, беларускі алфавіт вызначаецца большай дасканаласцю. У ім няма дублетных літар, ёсць знакі для абазначэння спалучэння гукаў *йо* (ё) і спецыфічнага беларускага гука кароткага *ў*, афрыкаты *дж* і *дз* перадаюцца дыграфамі, раздзяляльную функцыю выконвае апостраф.

*Літ.:* Карский Е. Ф. Славянская кирилловская палеография. Л., 1928; Истрин В. А. Возникновение и развитие письма. М., 1965; Булыка А. М. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мн., 1970.

*А. М. Булыка.*

## КІТАБЫ

Кітабы — кнігі, напісаныя на беларускай мове арабскім пісьмом. Ствараліся з 16 ст. татарамі, што пасяліліся на Беларусі і ў Літве ў 14—15 ст. і паступова забылі сваю родную мову. Для захавання рэлігіі яны вымушаны былі перакласці каран і іншыя кнігі іслама на беларускую мову, пакінуўшы пры гэтым арабскі алфавіт. Змест кітабаў — усходнія легенды, казкі, прыгодніцкія аповесці, апісанні мусульманскіх рытуалаў, т. зв. Мерадж (паэма пра ўзнясенне Магамета на неба), маральна-этычныя павучанні для моладзі (пра шанаванне бацькоў, гасцей, бедных, сірот, суседзяў і інш.), варажба па літарах карана, разгадка сноў. Акрамя кітабаў, выдзяляюць тэфсіры (каран з падрадковым каментарыем па-беларуску ці па-польску), тэджвіджы (правілы чытання карана), хамаілы (малітоўнікі).

Пачынаючы з 14 ст. на Беларусі пачалі сяліцца татары, адны як ваеннапалонныя, другія — добраахвотна, у пошуках лепшага жыцця. Пэўны час захоўвалі свае традыцыі, культуру, мову. Паступова сталі далучацца да беларускай культуры, забылі татарскую мову і перанялі беларускую. У 16—17 ст. большая частка татар не ведала сваёй мовы. Як сведчыць аўтар Рысале-і-татар-і лех (гэта дакладная запіска 1557—58 гг. невядомага татарына турэцкаму султану Сулейману пра татар-перасяленцаў на Беларусі і ў Літве), родную мову ў гэты час ведалі толькі тыя татары, якія перасяліліся значна пазней. Тым, хто ўжо не разумеў па-татарску, прапаноўвалася: «Калі хто па-татарску не ўмее, то па-руску нехай абракайецца (гаворыць)»,— тэкст 1-й паловы 18 ст. Гэта акалічнасць вымусіла перакласці мусульманскую літаратуру на беларускую мову, пакінуўшы знешняе афармленне (у т. л. і пісьмо) без змен.



**Старонка з кітаба пачатку 19 ст.**

Вывучэнне кітабаў пачалося ў 19 ст. Першаадкрывальнікам лічыцца прафесар Пецярбургскага універсітэта ўсходазнавец А. В. Мухлінскі, які ў працы «Даследаванне пра паходжанне і стан літоўскіх татар» (Спб., 1857) надрукаваў урыўкі з кітабаў і адзначыў, што «можна было б стварыць з такіх кніг маленькую бібліятэчку». Пасля смерці вучонага (1877) вывучэнне тэкстаў спынілася. Пра іх успомнілі толькі ў пачатку 20 ст. (І. І. Луцкевіч, Я. Ф. Карскі, І. Ю. Крачкоўскі і інш.). Найбольш грунтоўна даследаваў тэксты А. К. Антановіч. У кн. «Беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом...» (1968) ён разгледзеў 24 арыгінальныя тэксты (сярод іх 8 кітабаў), даў падрабязную моўную характарыстыку, выказаўся пра месца і час узнікнення кожнага з іх, разгледзеў графіку, дастасаваную татарамі да беларускай фанетыкі, прывёў транслітараваныя ўрыўкі.

Кітабы напісаны і чытаюцца справа налева, тэкст пачынаецца там, дзе ў славянскіх кнігах заканчваецца. Колькасць старонак неаднолькавая ў кожным кітабе — ад 70 да 1000. Радок суцэльны, няма падзелу на словы, няма вялікай літары і знакаў прыпынку. Перанос слоў падпарадкоўваецца аднаму правілу: кожны наступны радок павінен быць роўны з папярэднім. Новы твор (раздзел) пачынаецца словамі *баб* (раздзел, пачатак новага зместу) ці *хікайет* (аповесць, апавяданне). Іншы раз гэтых слоў няма, тады на палях выпісваюцца першапачатковыя словы (першы сказ), якія таксама паказваюць на пачатак новага зместу.

Мова кітабаў адрозніваецца ад мовы старажытных беларускіх пісьмовых помнікаў, яна блізкая да беларускай народнай мовы. У тэкстах адлюстравалася беларуская лексіка (*спрэчка, заранак, прысмакі, згода, гадаваць*), фразеалогія [*як вокам мігнуць, як слова сказаць, на свет пус-*

*ціць, на ногаць (пазногаць, пайногця), шлюб брацъ*], беларускі сінтаксіс (*пайшоў па прароцкую душу, дзякаваць таварышу*). З дапамогай арабскай графікі, дастасаванай да беларускай фанетыкі, больш дакладна, у параўнанні з кірылаўскімі пісьмовымі помнікамі, передаюцца некаторыя гукавыя асаблівасці беларускай мовы, у першую чаргу дзеканне і цеканне, разнастайныя асіміляцыйныя змяненні, паколькі ў арабскай графіцы былі розныя літары для абазначэння парных гукаў, напрыклад, с — с', з — з', д — дз', т — ц': *на сьвеце, зь вечара, зьнік, вернасьць, дзьверы.* Некалькі транслітараваных урыўкаў з кітабаў: *Сюлейман казал собі палац вусокій збудова*[*ц*]*і... алі рыба одна мором плыне і стала... рэкла: — Господару Сюлеймане... пан бог казал мні ў* [*ц*]*ебе йесь*[*ц*]*і піці просі*[*ц*]*ь. Сюлейман рэк: — Міла рыба. Прайда. Ото майеш што йесь*[*ц*]*і і пі*[*ц*]*і* (тэкст 17 ст.); *Потым йешчэ варота ачынілісе... там відзеў адзін полк жанок...— Што гэтыйе на сьвеце чынілі? Ангел рэк: — Малако свайе прэдавалі. У йіх усіх свайе дзеці былі, свайе пакінуўшы, чужыйе мамчылі* (тэкст 18 ст.); *Што прас сон пабачыш. Калі сонца ўпатуху бачыць, гультайом будзе. Калі езьдзіць на караблі, абернецца, госьць будзе* (тэкст 19 ст.).

У кітабах выкарыстоўваюцца ўсходнія словы, што абазначаюць разнастайныя мусульманскія рытуалы: *селам (салам, селям)* — мусульманскае прывітанне ў фразеалагізме *даць селам; васійят (весійят)* — духоўны запавет, *джаназе* — малітва на магілках і інш. Пераважная большасць такіх слоў уключаецца ў сістэмныя адносіны (назоўнікі скланяюцца, дзеясловы спрагаюцца). Нямала ўсходніх слоў атрымліваюць пад уплывам беларускай мовы іншыя формы. Слова *дуа* — малітва, просьба, заклік — прыняло памяншальна-ласкальную форму *дуайка.* Арабскае слова *кяфір* — нявернік — дало вытворныя *кяфіры, кяфірскі, кяфіране.* Як лічаць арабісты, напрыклад У. П. Дзямідчык, такія словы не маглі перакладацца. Яны інтэрнацыянальныя ў мусульман, бо маюць больш чым канкрэтнае значэнне — прызнанне веры ў адзінага бога. Выкарыстанне гэтых слоў рытуальнае. Такія словы хоць і адчулі ўплыў беларускай мовы, але ў беларускую мову трапіць не маглі, бо кітабы не маглі быць перадатчыкамі слоў у народна-дыялектную мову беларусаў па той прычыне, што пісьменства мела замкнёны характар, беларусы не разумелі яго і не маглі, паводле мусульманскіх канонаў, быць дапушчаны да яго.

Вывучэнне кітабаў дае каштоўны матэрыял для філолагаў, этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў, ісламістаў, цюрколагаў, арабістаў. Кітабы зберагаюцца ў бібліятэках АН Беларусі, АН Літвы, Вільнюскага, Санкт-Пецярбургскага і Казанскага універсітэтаў, у Вільнюскім гісторыка-этнаграфічным музеі, у прыватных бібліятэках.

*Літ.:* Луцкевіч І. Ай-Кітаб-Кіцёп // Бел. жыццё. 1920. № 6; Яго ж. Ай Кітаб //Зб. «Наша Ніва»: 1920. Вільня, 1920; Карскі Я. Ф. Беларуская мова арабскім пісьмом // Вестн. Нар. комиссариата просвещения ССРБ. 1922. № 1/3; Шлюбскі А. Беларуская мова арабскай транскрыпцыяй //Наш край. 1926. № 6—7; Вольскі В. Асноўныя прынцыпы арабскай транскрыпцыі беларускага тэксту ў «Кітабах» // Узвышша. 1927. № 6; Яго ж. Аб асаблівасцях жывой мовы беларускіх татар і арабскай транскрыпцыі «Алькітабаў» // Наш край. 1927, № 8—9; Антонович А. К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968. *В. І. Несцяровіч.*

## КЛІЧНАЯ ФОРМА

Клічная форма — гэта асобная склонавая форма назоўніка, якая захавалася ў сучаснай беларускай мове ад старажытнай сістэмы скланення імён і служыць для выражэння катэгорыі асобы пры звароце. Клічная форма яшчэ ў агульнарускі перыяд жыцця ўсходнеславянскіх моў стала выцясняцца назоўным склонам, форма якога магла выступаць як зваротак. Аднак вынікі замены клічнай формы назоўным склонам ва ўсходнеславянскіх мовах неаднолькавыя. У рускай літаратурнай мове клічная форма амаль не захавалася, і толькі ў паасобных гаворках сустракаюцца формы тыпу *Ванько, папо, старче* ці адпаведныя энклітычныя ўтварэнні тыпу *мам, Мань, пап.* Што датычыць беларускай і ўкраінскай моў, то гэта форма сустракаецца не толькі ў дыялектах, але і ў літаратурных творах. Напрыклад: *Гэй, гэй, **хлебаробе** мазольны, пан сошкі, і коскі, і поля!* (Я. Купала); *Лепш змагацца вольным, **браце,** чым цярпець ды гнуцца* (Я. Колас). Параўнайце аналагічнае ва ўкраінскай мове: *Яка ж ти красна, яка величнa, **земле моя!*** (А. Даўжэнка); ***Учителю,** стою перед тобою малий, вчарований до німоти* (Дз. Паўлычка).

З іншых славянскіх моў клічная форма захавалася ў польскай (*panie, boże, chłopcze, człowiecze, sąsiedzie, gościu, matko, głowo, ziemio, gospodyni*), чэшскай (*pane, kluku, hrade, kvitku, muži, chlapče, ženo*), серба-лужыцкай (*knježe, holče, dubo, klučo*), балгарскай (*до́кторе, профе́соре, сестри́це; граждани́но, Ива́не, соко́ле, бра́те, наро́де, вълко, ба́бо, ма́мо, прия́телю, ко́ню*), сербскахарвацкай (*народе, жено, судиіоэ*) і некаторых іншых мовах.

У сучаснай беларускай мове ў клічнай форме пераважна выступаюць уласныя і агульныя асабовыя назоўнікі мужчынскага роду, радзей назоўнікі, якія абазначаюць іншых істот — жывёл, птушак, насякомых, паўзуноў (часта ў пераносным значэнні), а таксама неадушаўлёныя назоўнікі ў сваім прамым значэнні або калі яны ўжыты ў значэнні адушаўлёных. Напрыклад: *Мой **дружа, Чэсю,** верны дружа мой* (А. Зарыцкі); *А скажы мне, **дзеду** любы, чаму так на свеце стала, што адным даецца мала, а другому — аж да губы?* (Я. Колас); *Смялей, **беларусе**-араты! Смялей уздымай к сонцу вочы* (Я. Купала); *Папайся, **жучку,** у панскую ручку* (К. Крапіва). ***Гаю** мой, **гаю, гаю** зялёны, што ж ты не йграеш?* (К. Буйло).

У залежнасці ад характару асновы назоўнікаў клічная форма можа заканчвацца на розныя галосныя. Так, пры аснове на цвёрдыя зычныя, на *у* (кароткае) клічная форма заканчваецца звычайна на *-у (-ю)* або *-е* з чаргаваннем адпаведных цвёрдых і мяккіх канцавых зычных асновы (*дзеду, саколю* ці *саколе, Іване, Ігнаце, Вацлаве, сыне, браце, пане, голубе, громе, лесе*), пры асновах на зацвярдзелыя і заднеязычныя — галоснымі *-у, -а* або *-о,* нярэдка з чаргаваннем зычных у аснове (*гаспадару, званару, грабару, ветру, вужу, чытальніку, хлопчыку, сынку, каханку, дударыку, жучку; дружа, нябожа, чалавеча, бядача, казача, малойча, украінча, хлопча* ці *хлапчо, Пятро*), пры асновах на мяккія зычныя і j [й] — галоснымі *-ю, -е* (*Чэсю, Ясю, Мікалаю* і *Мікалае, дабрадзею, коню, гаю, краю,* але: *князь — княжа*). Напрыклад: *Узнімайся, **народзе** мой, на вялікую расплату!* (Я. Купала); *Эх, лес цёмна-кудры, мілы мой **лесе,** удумныя дрэвы, зялёныя шаты, мой брат ты!* (Я. Колас); *На твой зоў магутны цесная грамадою хутка ўсе збяруцца... Не праспі, **званару**!* (Ц. Гартны); *Зайграй, зайграй, **хлопча** малы, і ў скрыпачкі і ў цымбалы* (П. Багрым); *Ты ляці, ляці, **саколе,** здабываць радзіме волю, у бой ляці, **казача*** (К. Буйло); ***Ясю** мой, з вайны вяртацца час* (А. Зарыцкі).

У некаторых беларускіх гаворках, пераважна паўднёва-заходняга моўнага арэала, адзначаюцца выпадкі ўжывання клічнай формы пры выражэнні звароту ў назоўніках жаночага і агульнага роду на *-а, -я* (*ма́мо, Са́шо, Мары́но, Ма́нё*).

У мове твораў мастацкай літаратуры клічная форма выкарыстоўваецца звычайна ў мэтах стылізацыі і адыгрывае моўна-выяўленчую ролю.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962; Жыдовіч М. А. Назоўнік у беларускай мове. Ч. 1. Адзіночны лік. Мн., 1969; Наркевіч А. І. Назоўнік: Граматыч. катэгорыі і формы. Мн., 1976; Беларуская граматыка. Ч. 1. Марфалогія. Мн., 1985.

*А. І. Наркевіч.*

## КЛЫШКА МІХАСЬ КАНСТАНЦІНАВІЧ

М. К. Клышка нарадзіўся 7 жніўня 1925 г. ў в. Данейкі Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1958). Працаваў журналістам. У 1967—81 гг. рэдактар выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Памёр 10 студзеня 1984 г.

М. К. Клышка — *аўтар першага* ў беларускай філалагічнай навуцы «Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў» (1976). У ім — каля 1900 сінанімічных радоў (больш за 11 тысяч слоў і выразаў). Спецыфічная асаблівасць слоўніка ў тым, што ён не тлумачыць, не дае характарыстык-вызначэнняў сэнсавым адценням слоў у сінанімічных радах, а толькі прыводзіць да кожнага з іх пацвярджальныя цытаты з мастацкай (выкарыстаны ілюстрацыйны матэрыял з твораў амаль 150 беларускіх пісьменнікаў, пачынаючы ад В. І. Дуніна-Марцінкевіча), навукова-папулярнай і навуковай літаратуры, фальклору, даведачных выданняў, перыядычнага друку. Выкарыстана і тая дыялектная лексіка, якая, на думку аўтара, мае тэндэнцыю быць агульнаўжывальнай, хоць канкрэтны лексічны матэрыял слоўніка гэта не заўсёды пацвярджае. Прыведзена немалая колькасць эмацыянальна-экспрэсіўных фразеалагізмаў. Зважаючы на практычны характар слоўніка, М. К. Клышка ўключыў у яго дапаможныя часціны мовы — прыназоўнікі, злучнікі, чаго няма ў іншых слоўніках сінонімаў.

Структура артыкула ў слоўніку наступная: пасля набранага светлым шрыфтам з вялікіх літар галоўнага слова (даміналты) ідуць стылістычна нейтральныя сінонімы і блізказначныя словы, далей падаюцца лексемы гутарковыя, размоўныя, кніжныя, вузкаспецыяльныя, устарэлыя, народнапаэтычныя, жартоўныя, іранічныя, з пераносным сэнсам. Завяршаюць артыкул фразеалагізмы (даюцца пасля знака □ — квадрата). Прыналежнасць слоў да пэўнага стылю мовы, сферы бытавання слова, яго экспрэсіўна-эмацыянальнай афарбоўкі, месца ў лексічнай сістэме сучаснай беларускай літаратурнай мовы — размоўнае, устарэлае, абласное, пераноснае і г. д.— вызначаецца курсіўнымі папераджальнымі паметамі ў круглых дужках: *(разм.), (уст.), (абл.), (перан.)* і інш.

Касяком (/) з рада выдзяляюцца сінонім (блізказначнае слова) або некалькі сінонімаў, што ўтвараюць унутры рада групы, якія вылучаюцца пэўнымі асаблівасцямі ўжывання ў мове. Пасля касяка курсівам даецца тлумачэнне спецыфічных асаблівасцей гэтага сiноніма ці групы сінонімаў (блізказначных слоў) параўнальна з дамінантаю і іншымі членамі рада. Каб чытач змог хутчэй адшукаць патрэбнае яму слова і яго сінонімы (блізказначныя словы і выразы), у канцы слоўніка падаецца індэкс — алфавітны паказальнік усіх слоў, што ўваходзяць у сінанімічныя рады.

Праілюструем структуру «Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў» М. К. Клышкі адным артыкулам з яго:

ЗЛОДЗЕЙ, РАСКРАДАЛЬНІК; ЗЛАДЗЮГА *(разм. пагард.);* ТАРБАХВАТ *(разм.) / што крадзе з узломам:* УЗЛОМШЧЫК / *што крадзе з кішэні:* КІШЭНШЧЫК / *што крадзе коней:* КАНАКРАД / *што крадзе ў лесе:* ПАРУБШЧЫК. Не злавіў — не *з л о д з е й.* Прыказка. І вядома, праўленне не дасць ніякай лiтасці гультаям, *р а с к р а д а л ь н і к а м* грамадскага дабра. М. Паслядовіч. Няўжо *з л а д з ю г а* ў краму ўлез? У. Корбан. А ты чаго, Юстына, расхныкалася? Шкада *т а р б а х в а т а?* І. Пташнікаў. Гэтымі днямі craляў па аднаму *ў з л о м ш ч ы к у* і, што вы думаеце, такі ўцэліў у сваю родную бабульку. М. Лынькоў.— Вядома, што гэта *к і ш э н ш ч ы к!* — закрычалі і іншыя пасажыры, якіх Віця штурхаў пад бакі.— Трымайце яго! А. Якімовіч. «Будуць лавіць!» Дзікі страх ахапіў старога *к а н а к р а д а,* і ён бег, колькі хапала сілы. Я. Колас. Маці баялася, напэўна, больш, чым мы, малыя, бо здараліся выпадкі, калі *п а р у б ш ч ы к і* помсцілі леснікам. І. Шамякін.

«Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» М. К. Клышкі засведчыў развітасць, выключнае багацце нашай мовы, выявіў шчодрую разнастайнасць яе адценняў і нюансаў пры перадачы розных з'яў рэчаіснасці, пачуццяў чалавека, паняццяў, характарыстык, фарбаў і паўтонаў пры апісанні падзей і з'яў, рэчаў, прадметаў, дзей і пераўтварэнняў чалавека і прыроды і г. д., стаў каштоўным дапаможнікам для ўсіх, хто вывучае родную мову, хто карыстаецца яе невычэрпнымі скарбамі вусна і на пісьме.

*Літ.:* Ю р ч а н к а Г. Невычэрпнае багацце // ЛіМ. 1969, 16 снеж.; С ц я ц к о П. Беларускі сінанімічны... // Полымя. 1977. № 4.

*І. У. Саламевіч.*




**М. К. Клышка. «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» (вокладка). 1976.**

## КОЗЫРАЎ ІВАН САФРОНАВІЧ



Рускі і беларускі мовазнавец І. С. Козыраў нарадзіўся 22 чэрвеня 1924 г. ў в. Пашына Дзямідаўскага раёна Смаленскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1947 г. скончыў Смаленскі настаўніцкі інстытут, а ў 1950 г.— Арлоўскі педінстытут. Настаўнічаў. Доктар філалагічных навук (1971), прафесар (1973). У 1953—73 гг. працаваў у Арлоўскім педінстытуце (дацэнт, прафесар, загадчык кафедры рускай мовы), з 1973 да 1988 г.— прафесар Мінскага педінстытута. Памёр І. С. Козыраў 5 лістапада 1992 г.

Галоўныя аб'екты навуковых даследаванняў І. С. Козырава — параўнальна-гістарычная лексікалогія рускай і беларускай моў і руская мова. Ён аўтар манаграфіі «Нарысы па параўнальна-гістарычнай лексікалогіі рускай і беларускай моў» (1970). Вырашаючы пытанні значэння і зместу параўнальна-гістарычнага і гістарычна-супастаўляльнага вывучэння роднасных моў, раскрываючы гісторыю параўнальна-гістарычнай і гісторыка-супастаўляльнай лексікалогіі (і семасіялогіі) рускай і беларускай моў, цяжкасці вывучэння лексікі рускай і беларускай моў, І. С. Козыраў бачыць змест параўнальна-гістарычнай лексікалогіі ў вывучэнні лексікі, атры-

манай у спадчыну ад мовы-асновы. У параўнальна-гістарычнай лексікалогіі, лічыць аўтар, трэба найперш параўнаць гісторыю слоў мовы-асновы ў мовах-нашчадках, вывучыць лексічныя і семантычныя заканамернасці іх развіцця, якія праяўляюцца ў гістарычна абумоўленых падабенствах і адрозненнях паміж гэтымі мовамі. Асноўная задача параўнальна-гістарычнай лексікалогіі рускай і беларускай моў, сцвярджае аўтар,— устанаўленне шляхоў складвання лексіка-семантычных сістэм гэтых моў у пачатковы перыяд іх фарміравання і параўнанне гісторыі старажытнарускай лексічнай спадчыннасці гэтых моў, тэндэнцый развіцця лексіка-семантычных сістэм, вызначаных мовай-асновай. Другую задачу І. С. Козыраў бачыць у рэканструкцыі не засведчанага ў помніках пісьменства слоўнікавага саставу старажытнарускай мовы, у выяўленні значэнняў асобных лексем у мове-аснове.

У даследаванні праводзіцца параўнальна-гістарычнае і падпарадкаванае яму гісторыка-супастаўляльнае вывучэнне лексікі не толькі пісьмовых рускай і беларускай моў, але і вусных з іх дыялектамі. Параўнаўшы ў абедзвюх мовах назвы адзення і абутку, посуду і ежы, назвы тыпаў паселішчаў і некаторых відаў пабудоў, назвы частак цела, аўтар устанавіў шляхі і заканамернасці фарміравання гэтых лексіка-семантычных сістэм, выявіў падабенства і адрозненні рускай і беларускай моў на лексічным узроўні.

У манаграфіі «Фарміраванне слоўнікавых саставаў рускай і беларускай моў: Саматычная лексіка» (1983) І. С. Козыраў устанаўлівае пласт слоў старажытнарускай мовы, якімі называліся часткі цела чалавека, вызначае, якія лексемы былі атрыманы ў спадчыну рускай і беларускай мовамі, які лёс гэтых слоў у кожнай з моў. У працы прааналізавана больш за 690 лексем і іх варыянтаў.

І. С. Козыраў з'яўляецца таксама аўтарам кніг «Сучасная руская мова: Фразеалогія, лексікаграфія» (1979), «Пытанні параўнальна-гістарычнай лексікалогіі рускай і беларускай моў: Вуч. дап. па спецкурсу» (1980) і інш.

*Тв.*: Отношение смоленской областной лексики к лексике соседних говоров и языков // Уч. зап. (Орловский пед. ин-т). Орел, 1964. № 22; К истории формирования словарных составов русского и белорусского языков // Уч. зап. (Курский пед. ин-т). 1966. № 2; Из истории формирования словарных составов русского и белорусского языков // Изв. АН СССР. Сер. лит. и яз. 1968. Т. 27, вып. 4; Развитие и соотношение областной и литературной лексики со значением *внезапно* в русском и белорусском языках // Слово в русских народных говорах. Л., 1968; Из истории развития терминологии родства в русском и белорусском языках // Русская историческая лексикология. М., 1968; Из истории синонимов русского и белорусского языков // Синонимы русского языка и их особенности. Л., 1972; Из истории развития предлогов при форме сравнительной степени в белорусском и русском языках // Вопр. языкознания. 1972. № 2; Из истории формирования словарных составов восточнославянских языков: *(Кузница, кузня, кузнец, коваль)* // Совещание по общеславянскому лингвистическому атласу (Ленинград, 1972). М., 1972; Из истории формирования лексических средств выражения понятий *одежда, одеть(ся)* в русском и белорусском языках // Совещание по общеславянскому атласу (Ужгород, 1973). М., 1973; К истории фразеологии белорусского языка // Філалогія: Зб. навук. прац Мінскага пед. ін-та. Мн., 1974; Из истории формирования словарных составов восточнославянских языков (рус. *пруд*, бел. *сажалка*, укр. *став*) // Лингвистический сборник. М., 1974. Вып. 2, ч. 2; О роли древнерусских слов *правьда, истина* в формировании словарных составов русского и белорусского языков // Русско-белорусские языковые связи: Сб. науч. трудов. Мн., 1976; К сравнительно-историческому изучению фразеологии русского и белорусского языков // Филологические исследования: Сб. науч. трудов. Мн., 1976; Из истории названий посуды в русском и белорусском языках // Вопросы русской и белорусской грамматики и лексикологии: Сб. науч. трудов. Мн., 1978; Из истории вариантов слов в восточнославянских языках (рус. *бревно*, бел. *бервяно*, укр. *бервено*) // Словарные составы русского и белорусского языков в их историческом развитии и современном состоянии: Сб. науч. трудов. Мн., 1980; Из истории формирования словарных составов русского и белорусского языков *(баня — лазня)* // Рус. язык. Мн., 1981. [Вып. 1]; Лексико-фонетическая дивергенция словарных составов русского и белорусского языков // Сравнительно-сопоставительное изучение лексики русского и белорусского языков: Сб. науч. трудов. Мн., 1981; Развитие и соотношение областной и литературной лексики со значениями 'мастер по ковке металла', 'помещение, в котором обрабатывают металл ковкой' в русском и белорусском языках // Диалектная лексика, 1979. Л., 1982; Лексические средства связи формы сравнительной степени с подчиненным ей компонентом в русском и белорусском языках // Семантика языковых единиц: Сб. науч. трудов. Мн., 1984.

*М. Н. Крыўко.*

## КОЛАС ЯКУБ



Народны паэт Беларусі (1926) Якуб Колас (сапраўднае імя Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч) нарадзіўся 3 лістапада 1882 г. ў засценку Акінчыцы (цяпер у межах г. Стоўбцы). У 1902 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам (1902—06) у в. Люсіна Ганцавіцкага і в. Пінкавічы Пінскага раёнаў, у Верхменскім народным вучылішчы Смалявіцкага раёна, у Вільні ў газеце «Наша ніва» (1907—08), у Пінскім прыходскім вучылішчы (1912—14). У 1915—18 гг. служыў у арміі. У 1918—21 гг. працаваў настаўнікам, школьным інспектарам на Куршчыне. Пасля пераезду ў Мінск выкладаў у Беларускім педагагічным тэхнікуме і БДУ. Працаваў у навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР. Удзельнічаў у стварэнні і працы Інбелкульта (з 1922), пазней — АН БССР. Акадэмік АН БССР (1928). У 1929—56 гг. віцэ-прэзідэнт АН БССР. Памёр 13 жніўня 1956 г.

Якуб Колас — адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. На працягу дзесяцігоддзяў воляю лёсу яму было наканавана ісці ў першым шэрагу працаўнікоў і руплівцаў роднай культуры. Гэты шлях адзначаны выдатнымі здабыткамі ў галіне паэзіі і прозы, драматургіі і публіцыстыкі. Літаратурная творчасць, навуковая і грамадская дзейнасць Я. Коласа адыгралі вялікую ролю ў развіцці і ўзбагачэнні беларускай мовы. Народны пісьменнік плённа распрацоўваў і памнажаў выяўленчыя магчымасці роднага слова, павышаў яго мастацка-эстэтычную годнасць і грамадскі прэстыж. Пісьменніцкая праца нялёгкая нават у спрыяльныя гістарычныя перыяды. Колас жа пачаў служэнне Бацькаўшчыне сваім пяром у цяжкі і змрочны час царскага самаўладства. Пішучы па-беларуску першыя творы, Я. Колас задумваўся над тым, як яны будуць успрыняты: беларуская мова ганьбавалася, яе не дапускалі да афіцыйнага ўжытку. У допісе ў газету «Наша ніва» (1906, 22 снежня) малады К. М. Міцкевіч (пад псеўданімам Дзядзька Карусь) усхвалявана расказвае: «Маленькі хлопчык-беларус вучыцца ў школе. Цэлых пяць або і шэсць год ходзіць ён у школку. Ці чуе ён там сваё роднае слова? Не... а забудзецца часта, вырвецца ў яго сваё роднае слова...— вучыцель, а за ім і ўсе вучні падымаюць яго на смех.

А другі вучыцель яшчэ перадражніць, перакрывіць яго.

Бедны хлопчык спачатку нават не ведае, што ён злога зрабіў, што крывяць яго і смяюцца з яго».

Само жыццё паставіла перад прагрэсіўнай інтэлігенцыяй задачу пашырэння беларускай літаратурнай мовы сярод розных слаёў народа. Я. Колас робіць практычныя захады ў гэтым кірунку — піша мастацка-пазнавальныя творы («Другое чытанне для дзяцей беларусаў», 1909). Адукацыйная, педагагічная скіраванасць апавяданняў і фальклорных твораў у мастацкай апрацоўцы Я. Коласа, змешчаных у гэтай кнізе, абумовіла і выбар тэм (поры года, прыродныя з'явы, падзеі вясковага жыцця, народная мараль), і асаблівасці выкладу — вобразнасць, эмацыянальнасць, даступнасць. Коласавы творы для дзяцей не толькі даюць разнастайныя звесткі пра навакольны свет, але і вырашаюць у пэўнай меры задачу развіцця і ўзбагачэння мовы вучняў. Для гэтага выкарыстоўваецца і такі прыём. Пісьменнік уводзіць у свой твор словы, якія, на яго думку, трэба пашыраць у літаратурным ужытку. Значэнне іх тлумачыцца падборам вядомага дзецям слова або раскрываецца самім мастацкім тэкстам: *верасень (сянцябар)*, *настольнік (абрус)*, *праменьне (лучы)*, *калодзезь (студня)*; *— Найперад я запішу вас у журнал,— так назваў настаўнік кнігу з чорнымі вокладкамі.*

Каб падняць аўтарытэт роднай мовы, яшчэ раз услед за Ф. Багушэвічам пасведчыць, што яна «такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо іншая якая», пісьменніку трэба было паказаць у сваіх творах усё яе багацце і прывабнасць. Гэты сацыяльны і эстэтычны фактар прычыніўся да таго, што ў Я. Коласа рана склалася канцэпцыя літаратурнай мовы, якая пазней, ужо ў сталыя гады пісьменніка, была дакладна сфармулявана: «Мы павінны мецць мову прыгожую, гучную, простую, але гнуткую і выразную».

У трылогіі «На ростанях», у паэмах і аповесцях, у шматлікіх вершах і апавяданнях з вялікай мастацкай сілай выявілася сэнсава-эмацыянальная глыбіня, вобразнасць, мілагучнасць і іншыя мастацка-эстэтычныя якасці беларускай мовы. Я. Колас даў узоры ўжывання мовы нашага народа для розных камунікатыўных мэт: для штодзённых зносін, асабістай перапіскі, для публічнага выступлення і г. д. Гэта запатрабавала выкарыстання багатай лексікі, фразеалогіі, разнастайных сінтаксічных канструкцый. Паводле папярэдніх падлікаў, мова Я. Коласа ўключае каля 30 тыс. слоў і 3 тыс. фразеалагізмаў.

Прывядзем некаторыя характарыстыкі фразеалагічных адзінак (на аснове даследавання С. К. Бердніка). Абсалютную большасць у творах Я. Коласа складаюць агульнанародныя фразеалагізмы. Паводле паходжання яны аб'ядноўваюцца ў дзве групы: 1) спрадвечна беларускія фразеалагізмы *(ад галавы да пят, правая рука, богу душу аддаць, са скуры лезці, як пшаніцу прадаўшы)*, 2) фразеалагічныя запазычанні, калькі. Апошнія прыйшлі з розных моў: рускай *(ісці насустрач, пуцёўка ў жыццё, адваротны бок медаля)*, польскай *(пся крэў, збіць з тропу, ад мора да мора)*, стараславянскай *(несці крыж, да скančэння веку, блудная авечка)*, нямецкай *(мець грунт пад нагамі, ні рыба ні мяса)*, французскай *(мець месца, з вышыні птушынага палёту)*, англійскай *(рукі прэч, прайсці агонь і ваду)*. Неаднародныя фразеалагізмы і ў стылістычных адносінах. Дзве трэці іх — функцыянальна замацаваныя, маюць гутарковую (пераважна) ці кніжную афарбоўку. Устойлівых кніжных выразаў найболей у публіцыстычных і крытычных артыкулах, у лістах Я. Коласа: *залаты фонд, брацца за пяро, узняць меч, плячо ў плячо* і інш. Ужываюцца кніжныя фразеалагізмы і ў мастацкіх творах: *пабудаваны на пяску, ахілесава пята, альфа і амега, воляю лёсаў* і інш. Вялікую ролю ў творчасці Я. Коласа адыгрывае аўтарскае абнаўленне фразеалагізмаў. Любімы яго прыём — ускладненне фразеалагізма словам (словамі) свабоднага ўжывання: *страціць* ***старую*** *галаву, класціся* ***цяжкім*** *каменем на* ***старыя*** *плечы.* У творчай спадчыне народнага пісьменніка выяўлена больш як пяцьдзесят рэгіянальных фразеалагічных адзінак: *ні крупнік ні каша, страляць у саракоўку, не пад калдун, хоць на пупе круціся* і інш. Выкарыстанне такіх фразеалагізмаў робіць мову вобразнай і натуральнай.

Назіранні над мовай Якуба Коласа грунтуюцца на матэрыяле яго празаічных і вершаваных твораў. Вядома, мова паэзіі значна адрозніваецца ад мовы прозы, перш за ўсё рытміка-гукавымі, інтанацыйнымі характарыстыкамі, сістэмай сродкаў і прыёмаў мастацкага выяўлення. Але і ў паэтычных радках Я. Коласа выразна чувацьгукавы, структурны лад жывой гутаркі беларусаў. Чытаючы ці слухаючы паэму «Новая зямля», мы ўспрымаем шмат якія мясціны яе як звычайную людскую гаворку, забываючыся, што гэта вершаваная мова.— *О дзядзька, дзядзечка, саколік! // Насып мне ягад у прыполік!* Такі стылістычны эфект, які выклікае коласаўская мова, сведчыць пра яе сапраўды народную аснову. У радках, дзе паэтызуюцца з'явы прыроды, свет людскіх адчуванняў і мараў, мова і падборам слоў, і сінтаксічнай будовай набывае стылістычную афарбоўку ўзнёсласці, кніжнасці: *А ноч ціхутка; ў багне цёмнай // Пустэлі страшнай і бязмоўнай // Гараць дрыготна, ззяюць зоркі, // Як найдарожшыя пацёркі, // То паасобку, то гурткамі, // То брыллянцістымі радкамі, // І іх пучочкі-златаблёсткі // Наўкола кідаюць пялёсткі...*

Вытокі Коласавай мовы — у жывой народнай гаворцы, у вуснай творчасці, у крыніцах мастацкай літаратуры беларускага і іншых славянскіх народаў.

Фразеалагізмы, прыказкі, прымаўкі, загадкі выступаюць арганічнымі кампанентамі мовы персанажаў у коласаўскіх творах, куды яны ўключаюцца як гатовыя ці змененыя. З іх дапамогай дасягаецца вобразнасць выказвання, пераканальнасць сцверджання. У паэме «Сымон-музыка» ёсць мясціна: пан Гулыга тлумачыць Сымонку, што такое ноты. Тлумачэнне разгортваецца на аснове загадкі «Белае поле, чорнае насенне, хто яго сее — той разумее»: *А што гэта вось, панок? // — Гэта? Нотавы станок... //, Але, хлопча, без вучэння // Пуста будзе тлумачэнне. // Гэта ёсць такое поле, // Дзе арэ, але не плуг, // Дзе скародзяць, ды не ролі, // Дзе сявец, ды не пастух, // І ён сее не насенне: // Тут пакінуў след натхнення // Іншы сейбіт — творчы дух...* Раячы сваёй дачцэ Ганне пільнавацца лепш Кандрата, гаспадарскага сына, а не Сымона, вандроўніка, жабрака, маці перасцерагае: — *Ой, глядзі, змяняеш быка, // Ды змяняеш на індыка. // Хіба зловіш ветра ў полі?*

Пад відочным уплывам апавядальнага фальклорнага жанру Я. Колас піша цыкл алегарычных твораў «Казкі жыцця». Творча выкарыстоўваючы форму казкі, здабыткі народнай паэтыкі і стылістыкі, ён дамагаецца, можна сказаць, дасканаласці свайго мастацкага слова. Гэта відаць і ў натуральнай будове сінтаксічных канструкцый, і ў адборы слоў і формаў, і ў гукавой арганізацыі мовы.

Сувязь Коласавай мовы з жывой народнай прасочваецца ў шырокім ужыванні слоў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі: *вясенька, лецейка, сонка, месячык, ветрычак, жыцейка, збожжайка, сілка, сэрцайка, шчасцейка, нічагусенька, нештачка, спаткі* (прыклады з паэмы «Сымон-музыка»).

Малюючы яскравыя вобразы роднага краю, беларускай прыроды, ствараючы панараму жыцця народа, даючы трапныя характарыстыкі персанажаў, пісьменнік па-майстэрску выкарыстоўвае рэсурсы выяўленчых сродкаў, назапашаных літаратурай. Значнае месца ў Коласавых творах займаюць тропы: параўнанні, эпітэты, метафары, перыфразы і г. д. Згадаем агульнавядомы пачатак паэмы «Новая зямля»: *Мой родны кут, як ты мне мілы!.. // Забыць цябе не маю сілы! // Не раз, утомлены дарогай, // Жыццём вясны мае убогай, // К табе я ў думках залятаю // І там душою спачываю. // О як бы я хацеў спачатку // Дарогу жыцця па парадку // Прайсці яшчэ раз, азірнуцца, // Са-*

*браць з дарог каменні тыя, // Што губяць сілы маладыя,— // К вясне б маёй хацеў вярнуцца.* Дзякуючы ўжыванню агульнамоўных метафар *дарога* (жыццё), *вясна* (юнацтва), а таксама аўтарскіх перыфраз *дарогу жыцця па парадку прайсці, сабраць з дарог каменні тыя, што губяць сілы маладыя*, паэту ўдалося выказаць пачуцці і жаданні як глыбока асабістыя і адначасова як агульналюдскія.

Традыцыі фальклору і мастацкай літаратуры Я. Колас працягвае пры ўжыванні параўнанняў, эпітэтаў: *Ганна — красачка-дзяўчынка: // Рост у меру, тонкі стан,— // Пазайздросціць ёй былінка, // Што аздобіла курган. // Вочы Ганніны — дзве зоркі, // Броўкі — выгібы крыла, // Грудкі — дзве блізніцы-горкі, // Як сад, Ганна расцвіла* («Сымон-музыка»).

Пісьменнік, вядома, не абмяжоўваецца «гатовымі спісамі» моўных сродкаў, папаўняе групы выразных, вобразных слоў індывідуальнымі ўжываннямі, якія нясуць вялікую вобразна-эмацыянальную нагрузку. Прачытаем урывак з апавядання «Малады дубок»: *Там і сям стаялі парыжэлыя стагі. Далей перад Андрэем пачынаўся лес, праз які ішла дарога. А над усім гэтым вісела хмурнае неба,* ***як кепска зааранае поле.*** Такім убачыць неба мог толькі селянін дбайны, працавіты, у якога былі свае меркі, патрабаванні да працы: каб яна выконвалася не абы-як. Параўнанне трапна передае стан душэўнай спустошанасці персанажа.

А вось як дакладна паказваецца з дапамогай вобразнага звароту, што ўзнік на аснове параўнання, выгляд музыкаў, якія цешаць сваім граннем князя і паноў: *Тут музыкі —* ***лознік гібкі*** *— // Падымаюць, хто кларнет, // Хто басэтлю, а хто скрыпкі, // Каб аздобіць той банкет* («Сымон-музыка»). Бачым: схіляюцца, кланяюцца слухачам-панам музыкі, як гнецца ад ветру лознік.

З багатых моўных запасаў пісьменнік умее выбраць самае дакладнае і прыдатнае слова, якое б выказвала патрэбнае значэнне, адпавядала маўленчай сітуацыі, кантэксту. Вось як неаднолькава называюць сяляне звальненне Максіма Зарубы з пасады лесніка (апавяданне «Малады дубок»). За вочы факт перадаецца так: *— Чуў ты? — гаворыць Якім.— Зарубу* ***гоняць*** *вон са службы.* Слова *гоняць* перадало сутнасць звальнення: не па ўласнай волі пакідаў ляснік службу. Сінанімічнае слова ў разважанні Андрэя Плеха: *Як-ніяк, а ён быў прычынай таго, што чалавека* ***выпіхаюць*** *вон на зіму без кавалка хлеба.* Андрэй, пытаючыся ў Максіма пра звальненне, падбірае іншыя словы, каб змякчыць іх уздзеянне на ўзрушанага лесніка: *Завошта ж, брат, цябе* ***выдалілі****?; — Дык не за дубок* ***адмовілі ад службы?*** *— з жарам спытаўся Андрэй, і вочы яго прасвятліліся.*

**Аўтограф верша Я. Коласа «Слова». 1943.**

Я. Колас лічыў пільным клопатам кожнага пісьменніка папаўненне моўных запасаў, выкарыстанне лексічнага і фразеалагічнага багацця, якое «з поспехам ужываецца ў народзе». Пры гэтым важную ролю ён адводзіў сродкам кніжнай мовы. Ужо ў ранніх апавяданнях пісьменнік імкнецца арганічна паяднаць моўныя адзінкі жывой народнай і кніжнай мовы і на гэтай аснове дасягае высокага ўзроўню літаратурнага майстэрства. Яшчэ шырэй ужываюцца кніжныя словы і сінтаксічныя канструкцыі ў творах 1920—30 гг. І гэта зразумела. Я. Колас, ствараючы вобраз народа, адлюстроўваў і шматстайную маўленчую дзейнасць грамадства, чуйна ўлоўліваў тое новае, што ўносіла ў свядомасць, у мову людзей рэчаіснасць. Як адзначаў пісьменнік, «з культурным ростам і развіццём самога народа расце, развіваецца і ўзбагачаецца і яго мова як з боку самой лексікі, тэрміналогіі, так і з боку новых разуменняў і новых форм іх выражэння» (З поваду рэформы беларускага правапісу // Пісьменнікі БССР аб рэформе правапіса беларускай мовы. Мн., 1934. С. 28).

У буйных празаічных творах «На прасторах жыцця», «Дрыгва», «На ростанях» плённа выкарыстаны моўныя рэсурсы кніжных стыляў. Абсягі ўжывання кніжных слоў, фразеалагізмаў, сінтаксічных канструкцый шырокія. Гэта і гістарычны фон, і абагульнены паказ падзей, і сацыяльная характарыстыка дзейных асоб, і агульны, пададзены ад аўтара ход думкі персанажаў. Элементы кніжнай мовы звычайныя і ў аўтарскім аповядзе на бытавую тэму: *Бабка ставілася да новага гаспадара з ласкаю роднай маткі. Некалькі разоў заходзіла яна да Лабановіча. Ёй* ***прыемна было паведаміць,*** *як паставіліся да яго вучні, што гаварылі аб настаўніку. А потым бабка надумалася пачаставаць яго асаблівай вячэраю. Яна наскрэбла чыгунок бульбы. Калі бульба зварылася, бабка патаўкла яе, дадала пшанічнай мукі ды ўбіла пару яечак. З кашы яна рабіла піражкі і падсмажвала іх на скавародцы. Такіх піражкоў настаўніку ніколі не даводзілася каштаваць, ён еў з ахвотаю і хваліў кухарскія здольнасці бабкі Параскі. Бабка ўся* ***цвіла ад задавальнення*** («На ростанях»).

Кніжную мову Я. Колас выкарыстоўвае таксама для стварэння гумару і сатыры. У дарэвалюцыйных апавяданнях «Соцкі падвёў», «Так і трэба ашуканцу», «Пісаравы імяніны» ды іншых пісьменнік трапна адбірае элементы мовы, якая функцыяніравала ў казённых, вайсковых і царкоўных установах, і дасціпна сутыкае іх з лексікай, фразеалогіяй гутарковай мовы і прастамоўя. Гумарыстычнае гучанне набывалі і тыя радкі, у якіх словамі «высокімі», кніжнымі перадаваліся недарэчныя сітуацыі, зніжаныя дзеянні. Плённы працяг такога выкарыстання (дзеля гумару, іроніі) сродкаў кніжных стыляў — у буйных празаічных творах: *Калі ён пазіраў на гонкі рост свайго засеву, дык дзядзькаў твар свяціўся, як месяц у поўню, а пышны вус сам сабою* ***станавіўся на пазіцыю задавальнення*** («На ростанях»); *Васіль Бусыга быў кандыдатам у валасныя старшыні, але рэвалюцыя і ўсе далейшыя падзеі* ***адвялі*** *яго* ***кандыдатуру*** («Дрыгва»).

Падкрэсліваючы ролю кніжнай мовы як крыніцы выяўленчых сродкаў Коласавых твораў, няправільна было б лічыць, што па такой узыходнай лініі — шляхам павелічэння колькасці кніжных слоў і словазлучэнняў — ішло развіццё аўтарскай мовы пісьменніка. Якуб Колас не мог прыняць кніжнай мовы, калі яна механічная, бяздумная, а значыць недакладная. У лісце да маладнякоўцаў (1928 г.) ён выказаў думку пра шкоднасць злоўжывання штампамі: яны закалыхваюць, прытупляюць увагу да сапраўднага становішча спраў.

У апавяданнях «Не з таго канца», «Адукацыя» і іншых за вонкава камічнымі сітуацыямі, за дасціпнымі дыялогамі чуваць настойлівае папярэджанне Я. Коласа: кніжнай мовай трэба карыстацца з пачуццём меры, з улікам яе камунікатыўнай мэтазгоднасці. Рабфакавец Кузьма — герой апавядання «Адукацыя» — шчодра напаўняе свой лексікон кніжнымі словамі *(рэзідэнцыя, атрыбуты, карэктывы, кампраміс)*, хоць, як сам прызнаецца, ён іх не ўсе разумее. Слова *анімістычны* ён вымаўляе *адміністратычны.* Гэтыя словы Кузьма выкарыстоўвае ў гутарцы на бытавую тэму з жонкай Насцяй, якая толькі тры зімы хадзіла ў школу. Насця многага не разумее з таго, што гаворыць Кузьма. Натуральна, на глебе непаразумення ўзнік канфлікт, які ледзь не скончыўся распадам маладой сям'і.

У моўнай тканіне Коласавых твораў пэўную долю складаюць наватво-

ры. Нялёгка вызначыць, якія словы ўпершыню ўжыў пісьменнік як індывідуальна-аўтарскія, якія ўзяў з жывой народнай мовы. Коласаўскія творы, іх мова былі і застаюцца узорам для беларускіх пісьменнікаў. Вось чаму словы трапныя, выразныя, адметныя, што выкарыстоўвае Я. Колас, дружна падхопліваюцца іншымі аўтарамі, робяцца агульнаўжывальнымі. Як прыклад такіх слоў можна назваць *выразлівы, грамозны, мнагалучны, надзем'е, прахаладзь, рухлівы, сінеча, сумота, цемрадзь.* Гэтыя словы ўжо даюцца ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—84).

Аўтарскія наватворы часцей сустракаюцца ў вершаванай мове. Я. Колас часткова тлумачыць прычыну іх ужывання. Ён з іроніяй прыгадвае, як следам за маладнякоўцамі быў зажадаў «пафарсіць формай» — наствараў слоў тыпу *цемнакрыліць, плыўнадымныя, іскраззянныя.* Не скідаючы з рахунку гэтага прызнання, трэба шукаць больш істотную прычыну з'яўлення Коласавых наватвораў. У паэме «Сымон-музыка» паэтызуецца ўзвышэнне чалавека над прозай жыцця, узлёт яго думак, мар у прасторы надзем'я, прага спасцігнуць усе таямніцы свету. Для гэтага спатрэбілася незвычайная, узвышаная паэтычная лексіка. Апрача ўжо названых наватвораў, у паэме «Сымон-музыка» ўжыты цэлы шэраг індывідуальных слоў, пераважна эпітэтаў: *златадзенны* (човен), *мнагадумны* (прастор), *срэбраплынны* (ручаёк), *златаіскрае* (імгненне), *златаблескія* (адзежы), *звоннаплыўная* (струна), *санцавеі, жаўтацвецень* і інш. Значэнне, мастацкая роля такіх слоў найбольш поўна раскрываюцца ў кантэксце: *Хмарак шоўкавая грыва // Рассцілаецца гулліва // Агнячырванай мятлою.*

Асобныя словы ўзніклі і існуюць у пэўным радку ці страфе, іх форма дыктуецца рыфмай: *Не адзін раз чуў папрокі // Ад бацькоў сваіх хлапчук. // А за што, за што* ***нарокі?*** *// З-за чаго той злосны гук?* («Сымон-музыка»).

Правамернасць ужывання слова *нарокі* (агульналітаратурнае *нараканні*) абумоўлена зрокавым і гукавым вобразам асноўнага ў сэнсавых адносінах слова *папрокі*, семантыкай сказаў гэтай страфы. Слова *гук* таксама адметнае: абазначае тут 'мова, гутарка'. Такія разавыя, індывідуальныя ўжыванні літаратурных слоў надаюць вобразнасць і выразнасць мове. Яшчэ прыклад: *Шыбуюць гусі ў край далёкі // І жураўлі ў той самы край. // — Бывай же, лецейка, бывай! // Бывайце, родныя* ***валокі!*** («Новая зямля»).

Слова *валока* абазначае меру зямлі (прыблізна 21 га). У Коласавым творы яно набыло іншае сэнсава-эмацыянальнае гучанне — «родныя палі, родныя мясціны». Слова *валока*, калісь вельмі актыўнае ў сялянскім ужытку, стаіць у адной лексіка-тэматычнай групе з назоўнікамі *ролі, гоні*, якія ў творах Я. Коласа таксама выступаюць назвамі палёў, зямлі.

Паэт узбагачае выяўленчыя сродкі мовы шляхам актывізацыі магчымасцей форма- і словаўтварэння. Так, у паэме «Сымон-музыка» ўжываюцца нетрадыцыйныя прыналежныя прыметнікі: ***хмарчына*** *ралля,* ***зорчын*** *смех,* ***дубаў*** *сынок,* ***краскавыя*** *струны,* ***руневая*** *аздоба,* ***ночкавая*** *пустыня* і інш.

І ўсё ж калі казаць пра ролю Я. Коласа ў развіцці літаратурнай мовы, дык менш за ўсё яна выявілася ў словатворчасці. Галоўнае — пісьменнік асвойваў бязмежныя рэсурсы мовы беларускага народа, напаўняў звычайнае гутарковае слова багатым жыццёвым і эстэтычным зместам, павялічваў яго функцыянальную значнасць.

Майстэрства пісьменніка найбольш выяўляецца ў пабудове сказа, складанага сінтаксічнага цэлага, у стварэнні тэксту. Ад самага пачатку сваёй творчасці Я. Колас, дзякуючы выдатнаму адчуванню мовы, цеснай сувязі з літаратурнай практыкай тагачасных выданняў (галоўным чынам — газеты «Наша ніва») арыентуецца на агульнабеларускія моўныя сродкі. Гэта забяспечыла ўстойлівую нарматыўнасць Коласавай мовы, якая ўжо не адным пакаленнем успрымаецца як узорная, хрэстаматыйная, як аснова сучаснай літаратурнай мовы. Выразнасць, акрэсленасць будовы сінтаксічных канструкцый, дакладнасць іх арганізацыі ў тэксце ствараюць такія кантэкстуальныя ўмовы, калі слова належным чынам выконвае сэнсавую, граматычную і стылістычную функцыі. Нават у вершаванай мове Я. Колас удала пазбягае вельмі пашыранай у літаратурных творах інверсіі, якая нярэдка робіць цяжкім успрыманне думкі, мастацкага вобраза.

Уключаная ў агульны літаратурны працэс, творчасць Я. Коласа адыграла выдатную ролю ў распрацоўцы сродкаў і прыёмаў мастацкага паказу. Ужо ў сваіх першых апавяданнях пісьменнік выкарыстоўвае няўласна-простую мову. Гэты спосаб перадачы чужой мовы значна пашырыў магчымасці псіхалагізацыі, індывідуалізацыі характару. Так, у апавяданні «Васіль Чурыла» няўласна-простая мова непрыкметна вынікае з аўтарскай: *Усё яго жыццё, усе яго думкі былі ў тым, каб скарэй збавіцца ад сабачай службы.* ***Дастаць бы кусок зямлі, пабудаваць сваю хату, нікога не баяцца, нікому не гнуцца. А тут што?*** Выкарыстанне няўласна-простай мовы ажыўляе выклад, з яе дапамогай чытач нібы далучаецца да абмеркавання таго ці іншага кроку, ацэнкі, якія наважваецца зрабіць персанаж.

Сінтаксіс Я. Коласа ўвабраў шмат словазлучэнняў і сказаў жывой народнай мовы: ***Нашто ўжо*** *старая цётка Магда, якую, здавалася, нічога на свеце не магло зацікавіць,* ***і тая*** *выйшла на вуліцу...* («Недаступны»); ***А як*** *тут* [у калодзежы] *было прахладна і спакойна,* ***то*** *Арцём ад здавальнення нават усміхнуўся сам сабе* («Недаступны»); *Антось наш дбалы, акуратны, а* ***пры рабоце*** *які здатны* («Новая зямля»); *З ім і дзеці не дружылі,* ***не прымалі да гульні*** («Сымон-музыка»); ***З крыку*** *ён зусім ахрып* («Сымон-музыка»).

Якуб Колас шырока і праўдзіва адлюстраваў у сваіх творах маўленчую дзейнасць беларускага народа, паказаў адносіны і кантактаванне людзей. Коласавы героі ўжываюць разнастайныя словы звароту, просьбы, падзякі, вітанні, зычэнні: *Мамачка, галубка! — // Просіць сын так міла.— // Можа б ты на рэчку // Пагуляць пусціла?* («На рэчцы зімою»).

Асаблівую ветлівасць, шчырасць надаюць гаворцы персанажаў звароткі, выражаныя клічнай формай (*Міхале, саколе, чалавеча*), назоўнікамі з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі. Хлопчык з паэмы «Сымон-музыка», звяртаючыся да старога чалавека, з якім давялося вандраваць, называе яго *дзедка, дзядуня, дзед, дзядок, дзедку.* У сваю чаргу дзед ужывае звароткі: *хлопча, брат Сымоне, мой сын, залаты мой чаўнок, хлопчыку; хлопча, мой малойча; хлопча-колас, хлопча-браце, дзеткі.* Характэрна, што назоўнік у форме множнага ліку *дзеткі* ўжываецца ў беларускай мове і пры звароце да аднаго чалавека. На матэрыяле Коласавых твораў можна вывучаць этыкет беларусаў.

Багаццем і разнастайнасцю вызначаюцца ўласныя асабовыя імёны. Паводле дадзеных Н. А. Чабатар, для наймення мужчынскіх персанажаў Я. Колас ужыў 252 імені; для жаночых — 142. Найбольш пашыраныя ў Коласавых творах няпоўныя неафіцыйныя імёны, якія выконваюць не толькі намінатыўную функцыю, але і экспрэсіўна-эмацыянальную. Пісьменнік ужывае кароткія ўласныя імёны, імёны з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі: *Аленка, Агатка, Аўдолька, Васілёк, Верка, Волька, Гараська, Іванок, Лёнік, Мікітка, Пятрок, Юрка, Яшка* і інш. Самыя частыя імёны — *Андрэй, Кандрат, Сымон, Мікіта, Пятрусь, Іван, Максім, Паўлюк, Янка, Мікола, Піліп, Сцёпка, Ганна, Алена, Тэкля, Наста, Агата, Мар'яна, Зося, Параска, Анэта, Магда.* Гэтыя ды іншыя імёны, што спатыкаем у Я. Коласа, бытавалі тады на Беларусі. Пры характарыстыцы сваіх герояў пісьменнік-рэаліст ішоў ад жыцця, ад народных традыцый.

Коласавы героі — гэта не толькі беларускі селянін, беларускі інтэлігент, рабочы. Сярод іх і прадстаўні-

кі іншых народаў: рускага, польскага, яўрэйскага. Каб стварыць моўны каларыт, пісьменнік уводзіць у мову персанажаў ці то асобныя словы і звароты, ці то выкарыстоўвае гукавыя, акцэнтуацыйныя рысы іх роднай гаворкі. Вось як перадаецца адметнасць мовы курскага селяніна ў апавяданні «Курская анамалія»: *Рыгор Андрэевіч пры гэтым мімаволі падкруціў свой чорны вус, а* ***дзядзя Мітрыч*** *казаў далей:*

*—* ***Чудачэц*** *ты,* ***Андрэіч!*** *Няўжо ты думаў, што мужык не разумее нічога, што мужык далікацтва не знае? Разумее ён,* ***мілан ты мой,*** *дзе што і к чаму, затым, што ты нам, кажу, чалавек ёсць прыемны.*

Літаратурная праца Я. Коласа працягвалася доўгі час — ад пачатку і да сярэдзіны 20 стагоддзя. Натуральна, яго творы зафіксавалі і тое, што ўвайшло ў залаты фонд роднай мовы (гэта абсалютна пераважае), і тое, што не замацавалася ў літаратурным ужытку (асобныя дыялектызмы, русізмы) або перайшло ў пасіўны запас (устарэлыя словы). Рыхтуючы новыя выданні сваіх твораў, пісьменнік правіў тэкст, каб дасягнуць большай дакладнасці і выразнасці мастацкага слова, рабіў стылістычныя і граматычныя праўкі. Напрыклад, замяняў кароткія прыметнікі поўнымі, памяншаў ужыванне формаў дзеепрыметнікаў, нехарактэрных для беларускай мовы.

Гістарычныя абставіны складаліся так, што Я. Коласу давялося быць настаўнікам беларускіх пісьменнікаў. Прызнанню за ім такога права спрыяў аўтарытэт выдатнага майстра слова, знаўцы народнага жыцця і чалавечай душы. Я. Колас часта ў вусных выступленнях, у крытычных і публіцыстычных артыкулах не толькі дзяліўся сакрэтамі літаратурнай працы, але дае парады і ў плане культуры мовы. Ён звяртае ўвагу маладых аўтараў на тое, каб мова іх твораў была правільная, дакладная, чыстая, абгрунтавана паказвае асобныя хібы, прапануе шляхі ўзнікнення моўных заган. Гэтыя падказкі, парады вельмі каштоўныя ўсім, хто жадае авалодаць вуснай і пісьмовай літаратурнай мовай.

*Літ.* Літаратурная творчасць К. М. Міцкевіча (Якуба Коласа). М., 1926; Янкоўскі Ф. М. Аб працы Я. Коласа над мовай рамана «На ростанях» // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1961. № 1; Каўрус А. З крыніц народнай мовы. Мн., 1968; Яго ж. Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989; Бірыла М. В. Роля Якуба Коласа ў развіцці беларускай літаратурнай мовы // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1982. № 5; Кавалёва М. Коласава слова ў пейзажных замалёўках: (Аповесці «У Палескай глушы», «У глыбі Палесся») // Слова і фразеалагізм у кантэксце: Зб. арт. Мн., 1983; Юрэвіч А. Вобразнасць слова ў мастацкім творы // Слова, фразеалагізм, словазлучэнне. Зб. арт. Мн., 1984; Каласавіны: Тэз. дакл. і паведамл. навук. канферэнцыі, прысвечанай 107-й гадавіне з дня нарадж. нар. паэта Беларусі Я. Коласа. Мн., 1989.

*А. А. Каўрус.*

## КРАПІВА КАНДРАТ



Беларускі драматург, байкапісец, празаік, вучоны-мовазнавец Кандрат Кандратавіч Крапіва (сапраўднае прозвішча Атраховіч) нарадзіўся 5 сакавіка 1896 г. ў в. Нізок Уздзенскага раёна. Народны пісьменнік БССР (1956). Акадэмік АН БССР (1950), доктар філалагічных навук (1953), тройчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (у 1971 г. за ўдзел у комплексе работ па беларускай лінгвагеаграфіі). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Скончыў БДУ (1930). Настаўнічаў, працаваў у рэдакцыях беларускіх газет і часопісаў. У 1947—52 гг. загадчык сектара мовазнаўства Інстытута літаратуры і мовы АН БССР. Працаваў дырэктарам Інстытута мовазнаўства (1952—56), віцэ-прэзідэнтам АН БССР (1956—82). Пачаў друкавацца з 1922 г., выдаў больш за 30 зборнікаў сатыры і гумару, прозы, драматургіі. На беларускую мову пераклаў працы К. Маркса, Ф. Энгельса, У. І. Леніна, мастацкія творы Дз. Фанвізіна, І. Крылова, А. Пушкіна, А. Чэхава, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча, У. Шэкспіра і інш. Памёр 7.1.1991 г.

Крапіва як майстар мастацкага слова і вучоны садзейнічаў фарміраванню беларускай літаратурнай мовы, станаўленню і замацаванню яе лексіка-семантычных, фразеалагічных, граматычных, акцэнталагічных і арфаграфічных норм. Пры перавыданні сваіх твораў замяняў вузкаўжывальныя, устарэлыя ці дыялектныя словы (*варштат, барбарскі, гарбата, заміж, склепь, гостраверхі, цярэспаля, лайнік, налапам, чаяць*) на агульназразумелыя (*станок, варварскі, чай, замест, дубець, вастраверхі, цераз поле, гультай, раптоўна, магчы*). Увёў у літаратурную мову такія, напрыклад, словы, як *кленічы, наватвор*; асобныя прозвішчы літаратурных персанажаў з твораў Крапівы сталі ўжывацца як агульныя назвы: *гарлахвацкі, зёлкін, туляга.* Мова твораў Крапівы вызначаецца дакладнасцю і лаканізмам, лексічным і семантычным багаццем, аптымальнай насычанасцю разнастайнымі моўнымі сродкамі, прычым без нематываванага іх паўтарэння. Так, у байцы «Дыпламаваны Баран» амаль усе словы маюць адзінкавую частотнасць. Прыкладам семантычнага багацця можа быць байка «Мандат», дзе слова *галава* выкарыстана 4 разы, але кожны раз з іншым значэннем: *Ад шчасця гэтага ў Асла // Аж* ***галава*** *кругом пайшла* (у складзе фразеалагізма — 'страціць здольнасць цвяроза разважаць'); *Ну й розум! Вось дык* ***галава!*** (у пераносным значэнні — 'розум, свядомасць'); *А* ***«галава»*** *з мандатам ў пайметра // Стаіць над яслямі ў хляве* (у пераносным значэнні — 'асёл'); *Ніводнай думкі ў* ***галаве*** (у прамым сэнсе — 'частка цела').

Выразнасці маўлення Крапіва дасягае ўжываннем разгорнутых метафар, стварэннем метафарычнага кантэксту на аснове папярэдняга параўнання (байка «Жаба ў каляіне») ці на вобразнай аснове фразеалагізма. Шырока выкарыстоўвае пісьменнік розныя стылістычныя фігуры (напрыклад, градацыю ў «Браме неўміручасці»: *Вы так мяне* ***ашаламілі, ашарашылі, агарошылі,*** *што я сёння нічога больш разумнага сказаць вам не магу*), ужывае шматлікія прыёмы абыгрывання мнагазначных слоў і амонімаў (на сутыкненні амонімаў будуецца цыкл вершаў «Загадкі дзеда Кандрата», 1986).

Адна з характэрных рыс стылю Крапівы — высокая насычанасць твораў фразеалагізмамі, ужыванне іх з пачуццём меры і мастацкай мэтазгоднасці. У творах пісьменніка зарэгістравана 2765 фразеалагічных адзінак, якія выкарыстаны 5341 раз, г. зн. большасць фразеалагізмаў — адначастотныя. Для стварэння пэўных стылістычных эфектаў (пераважна сатыры і гумару) фразеалагізмы ўжываюцца з разнастайнымі структурна-семантычнымі і семантычнымі змяненнямі. Выкарыстоўваюцца, напрыклад, такія прыёмы, як ускладненне фразеалагізма словам свабоднага ўжывання (у байцы «Лётчык і Блыха»: *Ён мераў нас на свой аршын блышыны*), фразеалагічная зеўгма (у сатырычнай мініяцюры «Скаціна не дайшла да Берліна»: *Залпам фрыцаў перанялі мы каля дарогі. Коні тут хвасты задралі, а фашысты — ногі*), агаленне ўнутранай формы фразеалагізма параўнальным зваротам (у ра-

мане «Мядзведзічы»: *І буду, як баран, вачыма лыпаць*), сутыкненне фразеалагізма і сугучнага з яго кампанентам слова (у казцы «Ці была ў яго галава?»: *На тое ён і казёл, каб быць казлом адпушчэння*), паралельнае ўжыванне аднатыпных па структуры фразеалагізма і свабоднага словазлучэння (у байцы «Памагатыя»: *Эх, нясе... курам на смех, а сабе на шкоду. Ды папраў ты трохі мех, бо зляціць у ваду*), двухпланавае асэнсаванне фразеалагізма (у апавяданні «Смерць»: *Мой Сяргей Пятровіч — чалавек сталы, паважны; адным словам — чалавек судзейскі, даўнейшага гарту.— Зубы з'еў на гэтым дзеле,— хваліцца сам Сяргей Пятровіч. Ды гэта й праўда,— я сам бачыў, што ў яго з зубамі не зусім ладна*) і шмат іншых.

Эфектыўна ўжываюцца ў творах К. Крапівы прыказкі. У байках яны выкарыстоўваюцца ў якасці загалоўка, эпіграфа, маралі, нярэдка служаць асновай для развіцця баечных сюжэтаў. Афарыстычнасць — адна з асаблівасцей мовы пісьменніка. Многія з яго паэтычных формул мудрасці трывала ўвайшлі ў беларускую фразеалогію (*свінтус грандыёзус, жаба ў каляіне, ні бэ ні мя, выдраць лысаму валоссе, акуляры наставіць*) і ў зборніках прыказак падаюцца без паметы пра іх аўтарства (*Каб сонца засланіць — вушэй асліных мала; Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч; Другі баран — ні «бэ», ні «мя», а любіць гучнае імя; Лес не сякуць языкамі*). Шырока выкарыстоўваюцца яны ў жывой народнай мове (*Да славы прагныя, ды вузкія ў плячах; Малому велічу быць хочацца заўсёды* і інш.).

Багаты і разнастайны сінтаксіс твораў Кандрата Крапівы. Пры гэтым сінтаксічны лад, як і лексіка-фразеалагічны састаў пэўнага мастацкага твора, падпарадкаваны яго ідэйнаму сэнсу. Так, у байцы «Дыпламаваны Баран» пераважаюць асаблівасці гутарковага стылю: складаназалежных сказаў толькі чатыры, астатнія — простыя, складаназлучаныя або бяззлучнікавыя; парадак слоў, як правіла, звычайны, у ролі выказніка выкарыстоўваюцца неспрагальныя дзеясловы імгненнага дзеяння (*разгоніцца ды ў сцэну — бух!*), прыслоўі (*а ён — нічога*); зусім адсутнічаюць дзеепрыслоўныя і дзеепрыметныя словазлучэнні. У байцы ёсць безыменныя персанажы, пра дзеянні якіх гаворыцца няпэўна-асабовымі сказамі: *І вось за дурасць гэту яго вучоным раз празвалі нейк на смех, а каб двара не перабег, на шыю прывязалі мету.* Каб не ўскладняць байку і не адцягваць увагі на другарадныя вобразы, пісьменнік абыходзіцца без назвы гэтых персанажаў нават і ў словах аўтара, якія суправаджаюць простую мову: *Вось,— кажуць,— і дыплом табе.*

Крапіва з'яўляецца аўтарам лінгвістычных артыкулаў «Шкодная блытаніна ў пытаннях мовы» (1949), «Аб прынцыпах удакладнення беларускага правапісу» (1952) і інш. У іх разглядаецца шэраг актуальных пытанняў беларускага мовазнаўства: паходжанне мовы, фарміраванне і гістарычнае развіццё літаратурнай мовы і яе сучасны стан, літаратурная мова і дыялекты, правапіс і лексікаграфічная тэорыя і практыка, мова і пісьменнік, культура мовы. Мова разглядаецца як складаная грамадская з'ява, у якой агульнае і прыватнае, устойлівае і зменнае, унутранае і знешняе знаходзяцца ў строгай сістэме і ўзаемасувязі. Даследчык раскрывае складаныя ўзаемасувязі паміж мовай і грамадствам, высвятляе прычыны змяненняў у сістэме мовы. Паколькі асновай для фарміравання сучаснай беларускай літаратурнай мовы сталі сярэднебеларускія гаворкі, якія ўвабралі ў сябе істотныя рысы паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў, аўтар лічыць неабходным далейшае вывучэнне мясцовых гаворак. Крапіва заклікае пісьменнікаў вучыцца ў народа законам і характару беларускай мовы, у народнай мове шукаць тыя скарбы, якія патрэбны для стварэння паўнакроўных вобразаў. «Той, хто не чуў народнай гаворкі з усім багаццем яе лексікі і фразеалогіі, хто абыякава ставіцца да гэтай найбагацейшай крыніцы, той не зможа ствараць яркіх, паўнакроўных твораў» (Крапіва К. Аб некаторых пытаннях беларускай мовы // Крапіва К. Зб. тв. Мн., 1956. Т. 2. С. 167).

Пісьменнік выказвае свае адмоўныя адносіны да няўдалых наватвораў, непатрэбных запазычанняў, архаізмаў, канцылярызмаў, не ўласцівых беларускай мове дзеепрыметных форм тыпу *трэск ламаемых галінак, трымаўшаеся за жыццё дрэва* і г. д. Слушнымі былі многія заўвагі Крапівы па праблеме нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы. Напрыклад: «З граматычнымі формамі трэба абыходзіцца вельмі асцярожна. Усякае штучнае скасаванне ці уніфікацыя граматычных форм, пакуль яны існуюць у агульнанароднай мове, з'яўляецца шкодным самаўпраўствам» (Пытанні беларускага правапісу // Весці АН БССР. 1952. № 2. С. 35). Крапіва рашуча асуджае тых, хто стараецца прынізіць беларускую мову, хто не верыць у яе выяўленчыя магчымасці. Аўтар канстатуе, што культура кожнага народа можа паспяхова развівацца толькі на яго роднай мове.

У часы культу асобы Сталіна Крапіва напісаў шэраг апалагетычных артыкулаў тыпу «Працы І. В. Сталіна ў галіне мовазнаўства і задачы беларускай савецкай літаратуры» (1951), «Сталінскае вучэнне аб мове і беларуская лінгвістыка» (1951), «Пытанні беларускага правапісу ў святле вучэння І. В. Сталіна аб мове» (1952). Тут пераказваюцца і каменціруюцца «геніяльныя працы таварыша Сталіна, прысвечаныя пытанням мовазнаўства», без асаблівых доказаў сцвярджаецца, што яны «палажылі канец той блытаніне, якая існавала сярод вучоных-лінгвістаў у найважнейшых пытаннях мовазнаўства і вывелі савецкае мовазнаўства з тупіка» (Наст. газ. 1952. 7 лют.). Выказваецца прапанова «прымяняць гэта вучэнне на практыцы, у нашай творчай працы, у адносінах да нашай беларускай мовы». Непрымальныя меркаванні і ўстаноўкі сустракаюцца таксама ў артыкулах «Грамадская неабходнасць і беспадстаўнае наватарства» (1976) і «Ці будзем мы ездзіць па левым баку?» (1979). Тут, у прыватнасці, Крапіва ахоўвае арыентацыю на «збліжэнне і ўзаемнае ўзбагачэнне» беларускай і рускай моў, перасцерагае некаторых аўтараў рабіць у мове змены і ўдакладненні «без санкцыі тых устаноў, на якія ўскладзены абавязак наглядаць за станам літаратурнай мовы».

У 1950-я гады, калі разгарнулася дыскусія па пытаннях беларускага правапісу, Крапіва ўзначаліў Арфаграфічную камісію АН БССР. На падставе яго прапаноў, выказаных у артыкуле «Пытанні беларускага правапісу» і ў працэсе абмеркавання «Праекта змен і ўдакладненняў беларускага правапісу», было ўнармавана напісанне складаных слоў, ужыванне канчаткаў у родным склоне адзіночнага ліку розных груп назоўнікаў мужчынскага роду, адноўлена народная традыцыя адрозніваць дзеяслоўныя формы абвеснага і загаднага ладаў (*берацe — бярэцe*), вернуты лічэбнікам *два, дзве, абодва, абедзве* іх родавыя формы і адпаведныя склонавыя канчаткі, праведзена шмат удакладненняў і змен.

Пры непасрэдным удзеле і пад навуковай рэдакцыяй Крапівы выдадзены «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963) і «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968, карты — 1969), «Граматыка беларускай мовы» (т. 1—2, 1962—66), «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы» (ч. 1—3, 1957—61), «Руска-беларускі слоўнік» (1953), «Беларуска-рускі слоўнік» (1962), «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—84), «Руска-беларускі слоўнік» (т. 1—2, 1982), «Беларуска-рускі слоўнік» (2 выд. Т. 1—2, 1988—89).

*Літ.*: Бірыла М. В., Шуба П. П. Шматграннасць таленту: (Да 80-годдзя з дня нарадж. К. Крапівы) // Бел. лінгвістыка. Мн., 1976. Вып. 9; Казека Я. Кандрат Крапіва: Крытыка-біягр. нарыс. Мн., 1965; Лепешаў І. Я. Фразеалогія ў творах К. Крапівы: Стыліст. выкарыстанне фразеалагізмаў. Мн., 1976; Суднік М. У нястомным пошуку // Полымя. 1976. № 3; Сцяшковіч Т. П. З на-

зіранняў над мовай К. Крапівы. Мн., 1961; Кандрат Крапіва: Бібліягр. даведнік. Мн., 1963. *І. Я. Лепешаў.*

## КРАСАМОЎСТВА

Красамоўства, або аратарскае мастацтва,— па-мастацку апрацаванае вуснае маўленне, мэта якога — пераканаць слухачоў, узрушыць іх і схіліць да пэўных дзеянняў. Жывое маўленне ператвараецца ў мастацтва тады, калі прамоўца ставіць перад сабой задачу не проста атрымаць і перадаць інфармацыю (у гэтым рэалізуецца камунікатыўная функцыя мовы), а актыўна ўздзейнічаць на субяседніка (уздзейная функцыя мовы). Гэтым тлумачыцца шматвяковае існаванне і развіццё красамоўства, яго жанравая разнастайнасць. Словам «красамоўства» абазначаюць таксама здольнасць асобнага чалавека гаварыць яскрава, прыгожа, змястоўна; здольнасць словам уплываць на іншых людзей, а выразам «аратарскае мастацтва» — навуку аб красамоўстве. Такая навука называецца яшчэ рыторыкай (устарэлы тэрмін — «элаквенцыя»).

Аратарскае мастацтва зарадзілася ў глыбокай старажытнасці. Найбольш славутымі прамоўцамі антычных часоў былі Дэмасфен (384—322 гг. да н. э.) у Старажытнай Грэцыі і Марк Тулій Цыцэрон (106—43 гг. да н. э.) у Старажытным Рыме. Аратарскае мастацтва прайшло вялікі гістарычны шлях, набыўшы ў рэшце рэшт тыя формы, якія ўласцівы яму ў нашы дні. Сёння адрозніваюць маналагічныя і дыялагічныя жанры красамоўства. Да першых належаць наступныя роды аратарскага мастацтва: сацыяльна-палітычны, акадэмічны (навукова-навучальны), сацыяльна-бытавы, судовы, лекцыйна-прапагандысцкі, ваенны, дыпламатычны, гандлёвы і царкоўна-багаслоўскі (апошні мае яшчэ спецыяльную назву «гамілетыка», ад грэчаскага homilēo — гавару з людзьмі). Кожны з пералічаных родаў падзяляецца на віды. Так, сацыяльна-палітычнае красамоўства ўключае такія віды, як палітычная прамова, справаздачны даклад, выступленне на мітынгу, парламенцкая прамова і шэраг іншых; сацыяльна-бытавое — урачыстая (юбілейная, віншавальная і інш.), застольная, пахавальная прамовы, вусны бытавы расказ; судовае — абвінавачая прамова (пракурорская), абарончая (адвакацкая) і самаабарончая прамовы. Дыялагічныя жанры красамоўства выкліканы да жыцця развіццём і пашырэннем разнастайных форм калектыўнай інтэлектуальнай работы (спрэчкі, дыспуты, нарады, гутаркі, прэс-канферэнцыі і г. д.). Дэмакратызацыя грамадскага жыцця ў нашай краіне высунула на першы план патрабаванне пераходу ад маналога да дыялога, павышэння культуры сацыяльна значымага дыялога, культуры дыскусій як найважнейшай формы калектыўнага пошуку ісціны.

Навуковую базу тэорыі і методыкі аратарскага мастацтва ўтвараюць палажэнні тых грамадскіх навук (філасофіі, сацыялогіі, логікі, псіхалогіі, педагогікі, этыкі, мовазнаўства і інш.), якія распрацоўваюць — кожная пасвойму — шматбаковую праблему чалавека і грамадства, кантактавання людзей, зносін паміж імі. Аднак прамоўніцкая практыка не абмяжоўваецца апорай на навуковыя рэкамендацыі. Яна патрабуе ад аратара максімальнага творчага падыходу. Менавіта таму красамоўства і з'яўляецца адной з форм слоўнага мастацтва, актыўна ўзаемадзейнічае з іншымі яго формамі — фальклорам, мастацкай прозай, драмай.

Тэксты публічных выступленняў розных тыпаў у сукупнасці складаюць аратарскую прозу, якая мае шмат агульнага з публіцыстыкай. Аратарская проза садзейнічае фарміраванню ў межах літаратурнай мовы аратарска-публіцыстычнага стылю і такім чынам уплывае на развіццё мовы ў цэлым.

На Беларусі здаўна атрымалі пашырэнне многія роды і віды красамоўства. Як аратар праславіўся Кірыла Тураўскі, «словы» якога сведчаць пра высокую культуру аратарскага мастацтва ў Старажытнай Русі 12 ст., пра сувязь з антычнымі і візантыйскімі традыцыямі. Пропаведзі Кірылы Тураўскага вызначаюцца драматызмам выкладання, яны насычаны алегорыямі, сімвалічнымі паралелямі, рытарычнымі зваротамі, яскравымі эпітэтамі. Найбольш паэтычнае «Слова на антывялікдзень (Фаміну нядзелю)», дзе духоўнае абнаўленне чалавецтва ў сувязі з узнікненнем хрысціянства супастаўляецца з веснавым адраджэннем прыроды.

У 1-й палавіне 15 ст. вядомасць набылі «словы» Г. Цамблака. У 16 ст. пашырыліся палемічна-рэлігійныя і палітычныя жанры аратарскага мастацтва (Л. Карповіч, М. Сматрыцкі, С. Полацкі, Л. Сапега і інш.). У 17 і 18 ст. форма прамовы надавалася сатырычным і гумарыстычным творам (парадзіраванне). Да іх адносяцца, напрыклад, «Прамова Мялешкі», «Прамова Русіна» і інш. У 19 ст. гэта традыцыя працягвалася ў вершаванай форме («Віншаванне войта Навума» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Імяніннае віншаванне Ігната Сліўкі» І. Мігановіча і інш.), але ўсё яскравей аратарская форма непасрэднага звароту да людзей выкарыстоўвалася з асветніцка-дэмакратычнымі, рэвалюцыйнымі мэтамі («Уставайма, братцы...» В. Каратынскага, «Праўда» Ф. Багушэвіча і г. д.). Найбольш выразна магчымасці аратарскага звароту да народа раскрываюцца ў публіцыстычных маналогах К. Каліноўскага (успомнім славутае «Дзецюкі! Доўга маўчаў я...»), у яго «Пісьме з-пад шыбеніцы» («Браты мае, мужыкі родныя!..»). Аднак гісторыя беларускага красамоўства распрацавана яшчэ недастаткова.

Выдатнымі прадстаўнікамі сучаснага аратарскага мастацтва на Беларусі з'яўляліся Ф. Г. Шантыр, Б. А. Тарашкевіч, М. М. Галадзед, А. Р. Чарвякоў, С. В. Прытыцкі, В. З. Харужая. Іх лепшым прамовам уласціва зліццё жыццёва важнай ідэі, актуальнага зместу з адточанай кампазіцыйнай і моўнай формай. Вось адна з такіх прамоў — выступленне Якуба Коласа на ўрачыстым сходзе, прысвечаным сямідзесяцігоддзю з дня яго нараджэння:

*Дарагія таварышы!*

*Прыміце маю глыбокую падзяку за вашы прывітанні, за добрыя пажаданні і за ўсё, што сказалі вы на гэтым вечары. Я ўсхвалёван да глыбіні душы тою вялікаю пашанаю, якую аказалі вы мне. Гэты дзень і вечар — дзень мае радасці.*

*Дарагія таварышы! У далёкія дні майго юнацтва, калі мяне так моцна захапляла паэзія і паэтычная творчасць і я ўпотайку складаў песні моваю роднага народа аб яго долі, мяне часта браў горкі роздум: куды я са сваім родным словам? Яно забаранялася, высмейвалася, яно выганялася з усіх устаноў таго часу. Ці дойдзе яно да народа, з цяжкім лёсам якога звязаў я свой лёс і якому аддаваў усё самае дарагое, што было ў маім сэрцы?*

*Маё слова, хоць і вузкімі дарогамі, але даходзіла да народа. Чым жа плацілі мне царскія слугі за мае песні, за прыхільнасць, за блізкасць да народа? Мяне выгналі са школы, дзе я быў настаўнікам, асудзілі на беспрацоўе, а потым пасадзілі ў астрог.*

*Так было калісь у царскія часы. А на гэтыя часы прыпадае трыццаць пяць год майго жыцця.*

Красамоўства, аратарскае мастацтва патрабуюць ад прамоўцы ведання пэўных законаў публічнага выступлення, у тым ліку і законаў, што дыктуюцца мовазнаўствам, веданнем самой мовы. Гэта законы тэхнікі маўлення (артыкуляцыя, дыкцыя, інтанацыя і інш.), культура мовы (націск, арфаэпія, выбар формы слова і г. д.), вобразнасці, або моўнай нагляднасці (выкарыстанне тропаў, фігур, выслоўяў) і стылю мовы. Аратарскае мастацтва — адзін з важных кампанентаў нацыянальнай культуры, найбольш цесна звязаны з узроўнем развіцця нацыянальнай мовы, з адукаванасцю яе носьбітаў, з дасканаласцю форм грамадскага жыцця.

*Літ.*: Апресян Г. З. Ораторское искусство. 3 изд. М., 1978; Михневич А. Е. Краткий словарь терминов красноречия // Ораторское искусство лектора: Хрестоматия. М., 1986.

*А. Я. Міхневіч.*

Вывучэнне мовы, яе дыялектаў, складанне слоўнікаў даўно стала амаль абавязковым для краязнаўцаў. Гэта адна з ранніх форм знаёмства з духоўнай культурай народа ў кожнай асобнай мясцовасці ці раёне. Менавіта з агульнага народазнаўства ў 19 ст. і адгалінавалася беларускае мовазнаўства, а пасля і дыялекталогія.

Пэўная роля краязнаўства ў знаёмстве з асаблівасцямі мовы рэгіёна выявілася яшчэ ў сярэднявеччы, калі прыхільнікі вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі праяўлялі цікавасць да самабытнага мясцовага слова. Гэта ж было традыцыяй Ф. Скарыны, які надаў эмацыянальную ўзнёсласць і каларыт народнай мовы кніжнаславянскай мове.

У 16—17 ст. С. Рысінскі і Я. Ласіцкі вылучалі народны каларыт у беларускіх прымаўках, трапных выразах і інш. Мясцовае слова стала элементам пацвярджэння самабытнасці краю, яго часта выкарыстоўвалі аўтары і перапісчыкі хронік, летапісаў, дыярыушаў, нават дзелавых папер, прыклад гэтаму давалі С. Будны, Ф. Еўлашоўскі. У. К. Радзівіл, Ф. Скарына, В. Цяпінскі і іншыя. На адметнасць беларускага слова звярталі ўвагу замежныя падарожнікі ў сваіх мемуарах, асабліва іх здзіўляла дакладнасць тапанімічных назваў, бытавых рэалій. Л. Зізаній у сваім буквары «Наука ку читаню и разуменю писма словенского» (Вільня, 1596) абапіраўся на элементы народнай мовы, царкоўнаславянскія словы ў яго творы «на просты руски диалект истолкованы». Першы друкаваны беларускі слоўнік — «Лексіс...» Л. Зізанія (1596), дзякуючы звесткам па гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўстве аблягчаў разуменне стараславянскай мовы, набліжаў яе да жывой мовы народа, пашыраў асвету.

У 17 ст. жывая беларуская гутарковая мова пранікае ў літаратурную. Ураджэнец Мсціслаўшчыны І. Ф. Капіевіч (Капіеўскі, каля 1651—1714) склаў і выдаў каля 20 сваіх кніг на рускай мове, сярод якіх падручнікі па граматыцы, дзе выкарыстаны беларускі моўны матэрыял пераважна Мсціслаўшчыны, а таксама Случчыны, дзе аўтар вучыўся і жыў.

Ананімны твор 17 ст. «Пра ўзяцце Смаленска» мае мноства беларускіх слоў Смаленшчыны: *згода, кажны, мает, мова, размовы* і інш., пераклікаецца з вядомым «Лістом да Абуховіча». У канцы 17 — пачатку 18 ст. ў Куцейне пад Оршай з'явіўся ананімны пераклад-пераробка на рускую мову дзевяці песень «Вызваленага Іерусаліма» Т. Таса і навелы Дж. Бакачыо (рукапіс у 1758 г. захоўваўся ў Жыровіцкім манастыры). Яго тэкст стракаціць мясцовымі словамі накшталт *выглядала, годзе, заграла, закахалась, згубіш, знароку, надзвычай, не трэба, папужала, трывога.*

У выніку паходу цара Аляксея Міхайлавіча на Беларусь у 17 ст. ў глыб Расіі былі адпраўлены вялікія групы беларусаў. Нават акружаныя рускімі, іх паселішчы доўга трымаліся роднай мовы і звычаяў. Амаль праз 200 гадоў У. І. Даль, збіраючы матэрыялы для свайго слоўніка ў Ніжнім Ноўгарадзе, учуў беларускую мову, параіў правесці архіўныя вышукі. Яны пацвердзілі, што слоўнікавы матэрыял з некалькіх паселішчаў Лукаянаўскага павета сапраўды належыць перасяленым пры Аляксею Міхайлавічу беларусам. У паселішчы Васілёў Майдан каля Арзамаса беларусаў называлі *ліцвінамі, панамі,* ад іх перанялі многія словы: *каваль, жменя, дарма, аброць, аж, глухмень, гультай, датыкацца, духмяны, жніво, гасцяваць* і іншыя. У 18 ст. да «вясковага» слова пачалі адносіцца як да «сыравіны» кніжнага пісьма («Ліст да Абуховіча», «Апісанне Крычаўскага графства або былога староства 1786 года» А. Меера). Над граматыкай беларускай (літоўскай) мовы працаваў С. І. Богуш-Сестранцэвіч, выкарыстоўваючы слоўнікавы запас гаворак Магілёўшчыны. У 6-томным «Слоўніку Расійскай акадэміі» (1784—94) змешчана шмат «простанародных» слоў, назваў прадметаў гаспадарчага ўжытку з Беларусі.

З развіццём краязнаўства на Беларусі ў 19 ст. даследчыкі матэрыяльнай і духоўнай культуры сталі часцей звяртацца да народнага слова як да асновы нацыянальнай самабытнасці. Гэтаму спрыялі навуковыя гурткі, таварыствы, Віленскі універсітэт (1579), а пасля яго закрыцця ў 1832 г.— Рускае геаграфічнае таварыства (1845), Віленская археалагічная камісія (1855), Віленская археаграфічная камісія (1864) і інш. Над кароткім слоўнікам беларускай мовы працаваў К. Ф. Калайдовіч. Прафесар Віленскага універсітэта І. М. Лабойка прапанаваў збіраць матэрыялы старабеларускіх помнікаў пісьменства і сам працаваў над такім слоўнікам. С. Ліндэ ў 1816 г. завяршыў даследаванне мовы «Статута Вялікага княства Літоўскага», у якім знайшоў уплыў народнай гаворкі. Ён жа працаваў над праектам агульнаславянскага слоўніка. Хоць у яго рэестры беларуская мова не значылася, аднак яна туды трапіла (*свавольнік, сталецце, заносны, наскочить, іглісты, худаваты, безвыходны, высокадзяржайны, лагодны, щкальны* і інш.). У 19 ст. падрыхтаваны «Збор слоў літоўска-рускай гаворкі» Ф. С. Шымкевіча (1838), «Слоўнік заходнярускай гаворкі» І. І. Грыгаровіча (літары А, Б, В — 1851), «Беларускія словы» С. П. Мікуцкага (1854), «Спроба слоўніка беларускай гаворкі» Е. Р. Раманава (1876) і інш. Разам з вопісам помнікаў старажытнасці слоўнік народных назваў вёў З. Даленга-Хадакоўскі. Пра жывую мову беларусаў паводле яе рэгіянальных асаблівасцей пісалі М. Анімеле, Ф. Галатузаў, П. Ф. Калайдовіч, П. Шастакоў. Працуючы над уласнымі слоўнікамі пэўных рэгіёнаў Беларусі, А. Кіркор, Я. Чачот, Л. Юцэвіч рабілі паралельныя запісы з польскімі або рускімі адпаведнікамі. Багата ілюстравалі матэрыяльную культуру беларусаў і іх быватую лексіку П. Шпілеўскі, М. Баброўскі, І. Ярашэвіч і іншыя краязнаўцы.

З 1850-х гадоў настаўнік М. А. Дзмітрыеў дасылаў Рускаму геаграфічнаму таварыству запісы народнай мудрасці, у тым ліку і складзены ім алфавітны паказальнік мясцовых слоў з іх філалагічным тлумачэннем. З іх дапамогай ён апісваў дажынкі, Купалле (дарэчы, А. Кіркор крытыкаваў М. Дзмітрыева, патрабуючы ад яго большай пільнасці пры запісах мясцовых гаворак). Сакратар дваранскай зборні Віленскай губерні І. Струміла, вядомы на Беларусі садавод, агароднік, пчаляр, кветкавод, напісаў шэраг прац, у якіх змясціў і мясцовыя назвы сваіх аб'ектаў даследавання. У яго «Слоўніку кветак» (1837) знаходзім такія беларускія назвы, як *браткі, краскі, лілеі* і іншыя.

У 1864 г. ў сваім маёнтку Замосце (Пухавіцкі раён) А. К. Ельскі стварыў літаратурна-краязнаўчы музей, фонды якога налічвалі каля 7 тыс. кніг, 20 тыс. рукапісаў, больш за 1 тыс. гравюр, тысячы запісаў беларускага фальклору, дыялектнай лексікі. У «Геаграфічным слоўніку каралеўства Польскага і іншых краёў славенскіх» Ельскі як краязнавец апісаў мясцовасці амаль усіх беларускіх паветаў. Ён выдаў працы «Пра беларускую гаворку» (1885), «Слоўнік жабрачае гаворкі на Белай Русі» (1886), «Слоўца пра матэрыялы для вывучэння беларускай гаворкі, этнаграфіі і літаратуры» (1886), зборнік «100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў для пажытку беларускага (крывіцкага) народа» (1908), пераклаў на беларускую мову 1-ю частку «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча (1893).

У 1877 г. Е. Р. Раманаў паведамляў Акадэміі навук, што сабраў 2000 слоў для «Спробы беларускага слоўніка» і напісаў раздзел граматыкі як уступ да слоўніка. Гэту працу ён працягваў яшчэ доўга, адбіраючы найбольш трапныя словы жывой беларускай мовы для свайго шматтомнага «Беларускага зборніка». Менавіта Раманаў і пачынаў запісы беларускага фальклору як ілюстрацыі да задуманага ім слоўніка беларускай мовы. Матэрыялы па беларускай мове збіраў археолаг К. А. Гаворскі. Віцебскі краязнавец і этнограф А. М. Семянтоўскі склаў слоўнік мер і вагаў, што ўжываліся на Падзвінні ў 19 ст. (*аршын, беркавец, бочка, вядро, вяршок, гар-*

*нец, чвертка, пура, увалока, цаль, асьмініна, асьмушка* і іншыя). Ю. Ф. Крачкоўскі вёў запісы пра народны быт і творчасць ў раёне Маладзечна, Крэва, Ашмян, звяртаючы пры гэтым увагу на характэрнасць мясцовай лексікі. З краязнаўчых захапленняў багаццем народнай мовы пачынаў І. І. Насовіч — аўтар вядомага «Слоўніка беларускай мовы» (1870), у якім перавага аддадзена Магілёўшчыне. Факты работы з народным словам сваімі працамі засведчылі І. Берман, Ф. Вярэнька, Я. Карскі, І. Луцкевіч, Я. Ляцкі, С. І. Мядзведскі, С. І. Сакалоў, М. Саковіч, А. Сапуноў, І. Сербаў, У. Сыракомля, К. і Я. Тышкевічы, М. Федароўскі і інш. Слоўнік беларускай мовы рыхтаваў Ф. Багушэвіч. Граматыку беларускай мовы на Палессі складаў святар П. М. Ціхановіч. Лексіку беларускай народнай мовы Барысаўшчыны, Міншчыны і Маладзечаншчыны запісваў акадэмік А. А. Шахматаў. У іншых раёнах Беларусі вялі лінгвістычныя назіранні К. Апель, М. А. Коласаў, І. І. Нядзёшаў.

У пачатку 20 ст. над слоўнікам беларускай мовы працаваў дырэктар Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі А. В. Ярушэвіч (захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве).

Уздзенская краязнаўчая арганізацыя «Дослед» збірала і складала карткі-словы жывой беларускай мовы, выпусціла рукапісны зборнік фальклору.

Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя 1929 г. паставіла пытанне пра складанне ў кожным раёне слоўніка жывой беларускай мовы (даклад М. І. Каспяровіча) і ўдзел моладзі ў зборы дыялектызмаў (З. Бядуля), пра ўкладанне геаграфічнага слоўніка раёна (А. Крукоўскі), пра збор слоўніка народнай тэрміналогіі (Я. Лёсік).

Шмат краязнаўцаў далучалася да працы тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта. Больш за 10 тыс. картак мясцовай лексікі прывёз з в. Дакудава Крупскага раёна настаўнік П. А. Самцэвіч. Яе збіралі З. Бядуля, І. К. Бялькевіч, М. А. Грамыка, Лукаш Калюга і іншыя.

Над слоўнікам працавалі краязнаўцы і лінгвісты П. А. Бузук, Д. М. Васілеўскі, Р. А. Зямкевіч, М. І. Каспяровіч, Я. Ю. Лёсік, С. М. Некрашэвіч, В. А. Самцэвіч, М. В. Шатэрнік і інш.

У Заходняй Беларусі над слоўнікам беларускай мовы працавалі Я. Багдановіч, З. Верас, Я. Н. Драздовіч, Б. Друцкі-Падбярэскі, К. Машыньскі, М. Пецюкевіч, У. Сланеўскі, А. Станкевіч, Я. Станкевіч, Ю. Тарноўскі і інш.

У пасляваенны час на Беларусі складаннем дыялектных і анамастычных слоўнікаў займаліся Я. М. Адамовіч, У. В. Анічэнка, М. В. Бірыла, М. А. Жыдовіч, Я. М. Камароўскі, А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч, Е. С. Мяцельская, М. Р. Суднік, П. У. Сцяцко, Т. Ф. Сцяшковіч, Г. А. Цыхун, Г. Ф. Юрчанка, Т. С. Янкова, Ф. М. Янкоўскі, Р. Яўсееў, І. Я. Яшкін і інш. Над слоўнікам беларускай мовы родных мясцін, вёсак працавалі М. Ф. Александровіч (Маладзечна), А. М. Белакоз (в. Гудзевічы, Мастоўскі раён), М. Н. Крыўко, І. У. Саламевіч (Мінск), І. Прач (Светлагорск), У. І. Чарняўскі (в. Вішнева, Валожынскі раён), В. Шоць (Смаргонь) і інш. М. І. Лазар (Маладзечна) склаў «Слоўнік старых беларускіх прафесій» (1990), многія словы з якога сёння выйшлі або выходзяць з ужытку *(рымар, бондар, шарцужнік)*. Ім жа складзены і слоўнік забытых беларускіх асабовых імён. Пашыраецца складанне слоўнікаў гаворак асобных вёсак, невялікіх рэгіёнаў.

З 1991 года ў АН Беларусі ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны краязнаўства стала прадметам даследавання. Функцыі навукова-метадычных цэнтраў па краязнаўстве выконваюць краязнаўчыя музеі.

*Літ.:* Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Крыўко М. Н. Набыткі беларускай дыялектнай лексікаграфіі за апошнія 20 гадоў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 4; Міхневіч А. Я., Гіруцкі А. А. Вазьмі маё слова...: Нататкі аб лекс. уплыве бел. і рус. моў у кантэксце ўзаемадзеяння культур. Мн., 1990.

*Г. А. Каханоўскі.*

## КРЫВІЦКІ АЛЯКСАНДР АНТОНАВІЧ

Беларускі мовазнавец А. А. Крывіцкі нарадзіўся 15 жніўня 1927 г. ў в. Залессе Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Магілёўскі педінстытут (1951). З 1952 г. працуе ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі (з 1986 г.— вядучы навуковы супрацоўнік аддзела дыялекталогіі). Пад кіраўніцтвам Р. І. Аванесава ў 1959 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю «Формы асабовых і зваротнага займеннікаў сучаснай беларускай мовы ў іх гісторыі».

З 1947 г. А. А. Крывіцкі вывучае беларускія народныя гаворкі. Беларуская дыялекталогія — галоўны напрамак яго навуковых даследаванняў. Ён адзін з аўтараў калектыўных прац «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964), «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі» (1962), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69). У 1971 г. за комплекс гэтых прац разам з іншымі мовазнаўцамі А. А. Крывіцкі ўдастоены Дзяржаўнай прэміі СССР. З'яўляецца таксама ўдзельнікам стварэння 5-томнага «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак».




**А. А. Крывіцкі. «Наша родная мова» (вокладка). 1973.**

А. А. Крывіцкі — арганізатар даследавання лексікі беларускіх народных гаворак. Па яго ініцыятыве Інстытут мовазнаўства АН Беларусі падрыхтаваў і выдаў лексікаграфічныя зборнікі «З народнага слоўніка» (1975), «Народная лексіка» (1977), «Жывое слова» (1978), «Народная словатворчасць» (1979). Ён ініцыятар стварэння, арганізатар работы, навуковы рэдактар і адзін з аўтараў «Тураўскага слоўніка» (т. 1—5, 1982—87).

У шэрагу прац А. А. Крывіцкі раскрыў узаемаадносіны і ўзаемадзеянне літаратурнай і дыялектнай разнавіднасцей нацыянальнай мовы, працэс станаўлення беларускай нацыянальнай мовы сярод іншых славянскіх моў. У брашуры «Сучасная беларуская літаратурная мова і народныя гаворкі» (1961) паказаў, як складвалася беларуская мова ў мінулым, калі і як узніклі мясцовыя гаворкі Беларусі, як фарміравалася сучасная беларуская літаратурная мова, якія яе адносіны да гаворак, якія асаблівасці і спецыфіку маюць гаворкі і якая іх групоўка.

У навукова-папулярным нарысе «Наша родная мова» (1964. 3 выд. 1973) А. А. Крывіцкі расказаў чытачам пра месца беларускай мовы сярод іншых моў, пра яе фарміраванне, узаемаадносіны паміж літаратурнай моваю і дыялектнай, пазнаёміў са слоўнікам, граматыкай, фанетыкай беларускай мовы, падкрэсліў значэнне мовы не толькі як сродку зносін, але

і як вялікага культурнага набытку народа, яго неацэннай спадчыны, ролю пісьменнікаў, якія апрацоўваюць і шліфуюць «сырую» народную мову.

Брашуру «У рытме з развіццём мовы» (1976) аўтар прысвяціў стану беларускай моўнай культуры ў розныя перыяды нацыянальнай гісторыі, ролі мовазнаўства ў нацыянальным моўным развіцці народа. А. А. Крывіцкі асвятліў асноўныя набыткі лінгвістыкі на Беларусі ў пасляваенны час у галіне лексікаграфіі, правапісу, даследавання розных праблем і пытанняў, актуальных аспектаў граматыкі, марфалогіі, сінтаксісу, фанетыкі, дыялекталогіі, анамастыкі, вывучэння старабеларускай пісьмовай мовы 15—18 ст., развіцця славістыкі ў Беларусі.

У працы «Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР» (1979, з А. І. Жураўскім) паказана распрацоўка праблем беларускага мовазнаўства за 50 гадоў існавання АН БССР, асноўная ўвага засяроджана на аналізе і ацэнцы найбольш значных навуковых даследаванняў мовазнаўцаў па сучаснай беларускай мове, дыялекталогіі і гісторыі беларускай мовы, а таксама па славістыцы. У папулярнай брашуры А. А. Крывіцкага «Што такое лінгвагеаграфія» (1986) расказваецца пра лінгвагеаграфічнае вывучэнне моў, дасягненні беларускай, славянскай і сусветнай лінгвагеаграфічнай навукі.

Для дапаможніка «Беларуская мова для небеларусаў» (1973, 3 выд. 1990 пад назваю «Беларуская мова для тых, хто гаворыць па-руску»; з А. Я. Міхневічам і А. І. Падлужным) А. А. Крывіцкі напісаў раздзел «Марфалогія», у якім пазнаёміў рускамоўнага чытача з лексічным складам часцін беларускай мовы, спецыфічна беларускай лексікай, самабытнасцю беларускага слова- і формаўтварэння.

Шэраг прац А. А. Крывіцкага прысвечаны фанетычнай сістэме беларускіх народных гаворак і дыялектаў, а ў 1984 г. з А. І. Падлужным ён апублікаваў вучэбны дапаможнік для студэнтаў ВНУ «Фанетыка беларускай мовы», у 1989 г. яны выдалі таксама «Практыкум па фанетыцы беларускай мовы».

З 1960-х гг. А. А. Крывіцкі рыхтуе беларускія дыялектныя матэрыялы і распрацоўвае лінгвістычныя карты па лексіцы і словаўтварэнні для «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа» (т. 1, 1988), з'яўляецца членам Міжнароднай камісіі атласа. З 1976 г. ён кіраўнік Беларускай нацыянальнай групы (з 1992 г.— Нацыянальнай камісіі) «Лінгвістычнага атласа Еўропы» і член рэдакцыйнага савета атласа.

*Тв.:* Формы асабовых займеннікаў трэцяй асобы ў беларускай мове // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1957. № 1; Я. Ф. Карскі — выдатны беларускі вучоны: (Да 100-годдзя з дня нараджэння) // Тамсама. 1961. № 1; Аб аканні ў гаворках Лагойскага раёна Мінскай вобласці // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 3; Фанетычныя асаблівасці адной з гаворак поўдня Беларусі // Тамсама. 1959. Вып. 6; Из словаря полесских рыболовов // Полесье: (Лингвистика. Археология. Топонимика). М., 1968; Тыпы і ўжыванне назваў рыбы ў адной гаворцы Палесся // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн.. 1972; Тры этапы фарміравання беларускай дыялектнай лексікаграфіі // З народнага слоўніка. Мн., 1975; У слоўнік Мсціслаўшчыны // Тамсама; Беларускія занальныя назвы франтона і паходжанне шчыта: (Да методыкі храналаг. інтэрпрэтацыі лінгвагеагр. адносін) // Бел. лінгвістыка. Мн., 1973. Вып. 3; Спадчына Я. Ф. Карскага па беларускай дыялекталогіі // Тамсама. 1982. Вып. 21; Лінгвістычны атлас Еўропы (разам з П. А. Міхайлавым) // Тамсама. 1983. Вып. 24; Лінгвагеаграфія: новы этап у развіцці метадалогіі: (Аб першым выпуску ЛАЕ) (разам з Н. У. Быкавай) // Тамсама. 1986. Вып. 29; Аб фарміраванні дыялектнай наменклатуры земнаводных рода Rana і Bufo у заходнеславянскай зоне іх намінацыі // Тамсама. 1987. Вып. 32; Пра слоўнік Тураўшчыны // Народнае слова. Мн., 1976; З лексічных рэгіяналізмаў Віцебшчыны // Тамсама; Традыцыйны сельскі моўны ландшафт Беларусі // Akademija nauka i umjetnosti Bosne i Hercegovine. Posebna izdanja. Sarajevo, 1977. Knj 6; Рэгіянальная лексіка з паўночнай Віцебшчыны // Народная лексіка. Мн., 1977; Гаворка в. Яскавічы Салігорскага раёна // Народная словатворчасць. Мн., 1979; Лінгвагеаграфічнае вывучэнне Тураўшчыны // Тамсама; Сучасная беларуская дыялектная лексікаграфія: Стан і перспектывы // Македонски jaзик. Скопje, 1980; Тураўшчына і слоўнік яе гаворкі // Тураўскі слоўнік. Мн., 1982. Т. 1; Обозначение перемещения ползком в славянских диалектах // Общеславянский лингвистический атлас: Материалы и исследования. 1980. М., 1982; О названиях ели в славянских языках // Тамсама. 1983. М., 1988; Беларуская мова — нацыянальная мова беларускага народа // Нар. асвета. 1984. № 8; Полесские говоры в составе белорусского и украинского языков (разам з Ф. Д. Клімчуком і Н. В. Ніканчуком) // Полесье: Материальная культура. Киев, 1988.

*І. У. Саламевіч.*

## КРЫЛАТЫЯ СЛОВЫ

Возьмем з паліцы добрую кнігу — хаця б вершы і паэмы У. С. Караткевіча. Не спяшаючыся, пагартаем, пачытаем, падумаем. Як жывы, побач з намі наш субяседнік, паэт. *Я імгненне жыву, // і памру на імгненне, // І у думцы і ў слове маім аджыву.* Цудоўны паэтычны свет... Асабліва спыняюць вока некаторыя радкі — трапныя, глыбокія. Яны як бы нясуць у сабе святло паэтавай мудрасці, у іх чуцён водгук адвечнага роздуму, да якога ўрэшце рэшт прыходзіць кожны чалавек: *Усё мінае — // Гонар не мінае, // Бо народжаны адным сумленнем* («Васілю Быкаву»); *Ёсць замест прыватнай неўміручасці — // Бессмяротнасць нацыі тваёй* («Бой пайшоў...»); *Усё адно не змяняю твой чорны праснак // На атруту пшаніцы чужой* («Мова»); *Адзінае ёсць на свеце: // Сумленне, братэрства, каханне* («Безгаловая Венера») і нават жартаўлівае: *Яешню есці // Закон нікому не забараняе, // Як грошы ёсць* («Трызненне мужыцкага Брэйгеля»).

Такія і падобныя трапныя выразы літаратурнага паходжання, у якіх глыбіня думкі, значнасць жыццёвага назірання знітаваны з выразнай слоўнай формай і якія ўжываюцца (ці могуць ужывацца) нароўні з народнымі (фальклорнымі) прыказкамі і прымаўкамі, называюцца крылатымі словамі.

Можна, вядома, зрабіць закід, што радкі У. Караткевіча яшчэ не набылі «крылатасці», не сталі літаратурнымі прыказкамі, не ўжываюцца так шырока, як, напрыклад, словы Я. Купалы пра селяніна *Пан сахі і касы* ці Я. Коласа *Хто ж дужэй ад грамады?* Гэты закід слушны, але толькі часткова. Па-першае, яшчэ ніхто не здолеў сабраць усіх крылатых слоў, ды і наогул, пакуль людзей вабіць слова, пакуль яны займаюцца мастацкай, навуковай, філасофскай творчасцю, гэта задача невыканальная. Па-другое, трэба з жалем прызнаць, што крылатыя словы з беларускіх крыніц яшчэ амаль не сабраныя. Ёсць толькі адна кніжачка такога роду — «Крылатыя словы і афарызмы» Ф. М. Янкоўскага.

Паводле паходжання словазлучэнне «крылатыя словы» само з'яўляецца крылатым выразам: яно прыляцела да нас з глыбокай старажытнасці. Гэты выраз неаднаразова сустракаецца ў славутых паэмах Гамера «Іліяда» і «Адысея», адлюстроўваючы спрадвечнае ўяўленне людзей пра здоль-




**Ф. М. Янкоўскі. «Крылатыя словы і афарызмы» (вокладка). 1960.**

насць чалавечага слова ляцець з вуснаў таго, хто гаворыць, да вуха слухача. Калі з бегам часу выраз «крылатыя словы» стаў тэрмінам мовазнаўства і літаратурнай стылістыкі, быў расшыраны і ўдакладнены яго змест, «крылатымі» пачалі лічыць не толькі выказванні-сказы, але і імёны міфалагічных і літаратурных персанажаў *(Адам і Ева, Каін, Крэз, Дон Кіхот, Сабакевіч, Туляга, Гарлахвацкі)*, трапныя найменні, мянушкі розных тыпаў *(брыдкае качаня, герой нашага часу, сіняя барада, тутэйшыя, свінтусграндыёзус)*, заклікі, звароты, загады з пэўным палітычным, гістарычным, маральным зместам *(Хлеба і відовішчаў!; І ты, Брут!; Каня! Каня! пайцарства за каня!; Асадзі назад!; А парогі — прэч з дарогі!; Каханенькая, родненькая!)*, агульнавядомыя, устойлівыя перыфразы *(зямля Калумба, карычневая чума, бацька рускай авіяцыі, беларускі першадрукар, несці ў сэрцы дружбу)* і інш. Асабліва значную ролю ва ўсталяванні сучаснага значэння тэрміна «крылатыя словы» адыграла праца нямецкага вучонага Георга Бюхмана — выдадзены ў 1864 г. зборнік такіх выразаў пад назвай «Крылатыя словы».

Крылатыя словы, што ўжываюцца ў межах нацыянальнай культуры, складаюцца не толькі з выразаў адной мовы. Так, у беларускі моўны ўжытак увайшлі крылатыя словы не толькі з беларускай, але і з рускай і іншых літаратур, філасофскіх твораў, навуковых прац, Бібліі і г. д. Прычым ёсць і такія крылатыя словы, што ўліліся ў беларускую ідыяматыку ў першапачатковай моўнай форме, напрыклад: Ars longa, vita brevis «мастацтва бясконцае, жыццё кароткае»: *Cogito, ergo sum* «мыслю, значыць, існую»; *Ad hoc* «на гэты выпадак» — з лацінскай мовы; *Ничтоже сумняшеся* «не раздумваючы, ні перад чым не спыняючыся» — са стараславянскай; *Блажен, кто смолоду был молод* — з рускай; *Cherchez la femme* «шукайце жанчыну» — з французскай; *Finita la comedia!* «усё скончана» — з італьянскай; *Todo modo* «любым спосабам» — з іспанскай; *To be or not to be?* «быць ці не быць?» — з англійскай; *Was abgemacht, ist abgemacht* «што зроблена, тое зроблена» — з нямецкай і г. д. Некаторыя з такіх крылатых слоў ужываюцца і ў перакладзе, напрыклад: *Быць ці не быць? А Васька слухае ды есць.* Тэматычны абсяг крылатых слоў акрэсліць амаль немагчыма, бо яны ахопліваюць, характарызуюць, ацэньваюць бязмежны свет матэрыяльнага і духоўнага быцця чалавека.

*Літ.:* Янкоўскі Ф. М. Крылатыя словы і афарызмы. Мн., 1960; Малажай Г. М. Беларуская перыфраза. Мн., 1974; Ашукин Н. С., Ашукина М. Г. Крылатые слова. М., 1986; Бабкин А. М., Шендецов В. В. Словарь иноязычных выражений и слов. Т. 1—2. Л., 1981—87. *А. Я. Міхневіч.*

## КРЫНІЦЫ ПАПАЎНЕННЯ БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНІКА

Агульнавядома, што слоўнікавы склад любой мовы бесперапынна змяняецца і абнаўляецца. Выходзяць з ужытку і паступова забываюцца старыя словы, паяўляюцца і замацоўваюцца новыя, некаторыя словы набываюць новыя значэнні. Чым жа абумоўлена падобнае няспыннае абнаўленне лексікі мовы? На думку спецыялістаў, шматлікія змены ў слоўнікавым складзе сучаснай беларускай мовы адбываюцца таму, што наша мова ўвесь час імкнецца захаваць адпаведнасць паміж светам слоў і светам прадметаў і паняццяў, які год ад году мяняецца. Заснавальнік беларускай філалогіі Я. Ф. Карскі пра гэтую моўную тэндэнцыю пісаў: «Ёсць у мове народа слова для абазначэння якоганебудзь паняцця, значыць, народу вядомы і сам прадмет, увайшоў у яго свядомасць; няма слова ў народа, няма і ўяўленняў аб прадмеце, апошні не ўсвядомлены ім, хоць ён і існуе ў рэчаіснасці».

Інакш кажучы, уяўленне аб прадмеце, пазбаўленым назвы, аказваецца няпоўным. Яно набывае неабходную паўнату і акрэсленасць толькі пасля абазначэння прадмета адпаведным словам. Гэта памагае зразумець, чаму менавіта ў слове найперш знаходзяць адлюстраванне новыя прадметы і з'явы аб'ектыўнай рэчаіснасці, самыя патаемныя пачуцці і адчуванні людзей, найбольш складаныя і абстрактныя паняцці, прыгажосць родных краявідаў і гісторыя народа. З кожным словам у грамадскую свядомасць уваходзіць канкрэтная ідэя пэўнага часу або мясцовасці. Таму знаёмства з новым словам, як правіла, развівае і ўзбагачае наша мысленне.

Слоўнікавы склад нашай мовы пастаянна ўзбагачаецца за кошт новых слоў і значэнняў па меры таго, як у народа ўзнікае неабходнасць назваць адпаведнымі словамі новыя прадметы і паняцці. Калі ж пэўны прадмет ці паняцце перастае існаваць у грамадскай свядомасці, то і яго слоўнае абазначэнне становіцца непатрэбным і паступова выходзіць з ужытку. Аднак пры гэтым колькасць новых слоў, якімі штогод папаўняецца беларускі слоўнік, заўсёды перавышае колькасць слоў, страчаных нашай мовай за гэты час. Таму слоўнікавы запас беларускай мовы пастаянна павялічваецца. Адначасова з колькаснымі ў беларускім слоўніку назіраюцца і якасныя змены. Характар апошніх вызначаецца складам тых крыніц, з якіх наша мова папаўняе свае лексічныя рэсурсы. На думку мовазнаўцаў, узбагачэнне беларускага слоўніка цяпер ідзе галоўным чынам за кошт утварэння новых слоў ад ужо існуючых, пераасэнсавання старых і запазычання іншамоўных слоў для абазначэння новых з'яў і прадметаў. Разгледзім гэтыя крыніцы падрабязней. Так, галоўнай крыніцай папаўнення беларускага слоўніка звычайна лічаць словаўтварэнне (гл. **Словаўтварэнне**). Калі франтальна прагледзець які-небудзь слоўнік беларускай мовы, можна адшукаць у ім мноства аднакаранёвых слоў, якія адрозніваюцца толькі асобнымі афіксамі. Асабліва вялікія словаўтваральныя магчымасці маюць старыя словы, якія шырока ўжываліся на працягу многіх соцень гадоў. Ад асноў гэтых слоў часта ўтвараюцца цэлыя «галактыкі» слоў, якія дзякуючы дадатковым афіксам у сваім марфемным складзе набываюць зусім іншыя значэнні. Такія «галактыкі» аднакаранёвых слоў звычайна называюцца словаўтваральнымі гнёздамі. Напрыклад, словаўтваральнае гняздо з зыходным словам *дзень* аб'ядноўвае ў сучаснай беларускай мове словы: *будзённасць, будні, дзённік, днець, днёўка, днявальны. падзёншчык, падзёншчыца, палуднаваць, поўдзень, праднявацъ, сёння, сягонняшні, удзень, штодзень, штодзённа, штодня* і інш. Кола паняццяў, што абазначаюцца вытворнымі ад слова *дзень*, вельмі шырокае. Прыкладна так будуюцца і іншыя словаўтваральныя гнёзды. Таму веданне найбольш прадуктыўных суфіксаў і спосабаў беларускага словаўтварэння дазваляе не толькі значна павялічыць асабісты лексікон, але і спрыяе адэкватнаму разуменню новых, толькі што створаных слоў.

Асабліва многа такіх слоў з'яўляецца падчас рашучых сацыяльна-палітычных змен у жыцці грамадства (уздым нацыянальна-дэмакратычнага руху, рэвалюцыі, войны і г. д.). Большасць новых слоў ствараецца пісьменнікамі, вучонымі, журналістамі (напрыклад, дакладна вызначана, што такія вядомыя сёння ўсім словы, як *мілагучнасць, мэтазгодны, дабрабыт, ажыццяўленне, адлюстраваць*, увёў у беларускую літаратурную мову пісьменнік У. Дубоўка). Але толькі асобныя са шматлікіх індывідуальнааўтарскіх наватвораў набываюць правы грамадзянства ў нашай агульнай мове, паколькі замацаванне новага слова залежыць не ад волі канкрэтнага чалавека, а ад аб'ектыўнай патрэбы ў такім слове ўсяго грамадства. Інакш кажучы, творцам мовы з'яўляецца народ, і толькі ён можа ўзаконіць новае слова, калі пачне карыстацца ім у штодзённым ужытку. Пры гэтым найбольш шансаў замацавацца ў мове маюць тэрміны — назвы новых навуковых паняццяў, матэрыялаў, машын і г. д. Аднак аб'ём навукова-тэхнічнай інфармацыі павялічваецца такімі тэмпамі (з пачатку 20-га стагоддзя ён вырас амаль у 10 разоў), што магчымасцей аднаго

толькі словаўтварэння стала відочна не хапаць для абазначэння ўсё новых і новых навуковых паняццяў. Акрамя таго, вучоныя даказалі, што нават калі б удалося стварыць адпаведныя словы для ўсіх новых прадметаў і паняццяў, то атрыманы ў выніку гэтага слоўны акіян у сотні разоў перавышаў бы аб'ём чалавечай памяці. Толькі хімічных рэчываў цяпер вядома больш за мільён, а наменклатура сённяшніх прафесій налічвае многія дзесяткі тысяч назваў. Якім жа чынам наша мова паспявае ў нагу з часам, нягледзячы на абмежаванасць словаўтваральных магчымасцей і чалавечай памяці? Справа ў тым, што абазначаць новыя прадметы і паняцці можна не толькі з дапамогаю спецыяльна створаных для гэтага слоў, але і надаючы старым словам новыя значэнні. Інакш кажучы, разнастайнасць аб'ектыўнай рэчаіснасці і вынікаў разумовай дзейнасці чалавека адлюстроўваецца не толькі ў асобных словах, але і ў розных значэннях аднаго і таго слова. Падобнае выкарыстанне шматзначнасці слова сведчыць не пра беднасць нашай мовы, а наадварот, пра яе багацце і дакладнасць, паколькі значэнняў у беларускім слоўніку намнога больш, чым слоў. Уся гэта безліч значэнняў перадаецца дзякуючы таму, што многія словы абазначаюць не адно, а два, тры і больш розных паняццяў. Напрыклад, дзеяслоў *ісці* мае ў беларускай літаратурнай мове 28 асобных значэнняў і яшчэ большую колькасць іх адценняў. Шматзначнасць многіх слоў у некалькі разоў павялічвае лексічнае багацце нашай мовы, а сам працэс пераасэнсавання старых слоў, развіцця ў іх новых значэнняў з'яўляецца важнай крыніцай папаўнення беларускага слоўніка.

Паяўленне новага значэння ў слове звычайна адбываецца ў выніку ўжывання яго ў нетрадыцыйнай сітуацыі пад уплывам суседніх слоў. Яшчэ А. С. Пушкін адзначыў, што «розум невычэрпны ў стварэнні паняццяў, як мова невычэрпная ў спалучэнні слоў». Калі слова спалучаецца з сотнямі іншых слоў рознага паходжання, стылю, значэння, то змест яго ў выніку гэтых спалучэнняў паступова мяняецца. Пры гэтым зыходнае значэнне слова можа звужацца, робячыся больш спецыялізаваным, а можа і пашырацца, узбагачаючыся новымі адценнямі значэння, асобныя з якіх з цягам часу развіваюцца ў самастойныя значэнні і замацоўваюцца ў мове. Падобныя змены ў значэннях слоў падпарадкоўваюцца пэўным семантычным законам. Так, рэгулярнае развіццё аднатыпных другасных значэнняў у аднатыпных групах беларускай лексікі можна праілюстраваць на прыкладзе назоўнікаў: а) амаль усе назвы посуду можна ўжываць з другасным значэннем 'змесціва гэтых пасудзін' у выразах тыпу *з'еў цэлую міску (патэльню, каструлю) грыбоў; выпіў гладыш (слоік, шклянку) малака;* б) амаль усе назвы дзеяння (напрыклад, такія, як *высечка лесу, развозка малака, стрыжка авечак* і інш.) можна ўжываць з другасным значэннем 'вынік дзеяння' ў выразах тыпу *за высечку лесу (развозку малака, стрыжку авечак) яму добра заплацілі;* в) амаль усе назвы паселішчаў можна ўжываць з другасным значэннем 'людзі, якія жывуць у гэтым населеным пункце' ў выразах тыпу *падчас землетрасення ўвесь горад (пасёлак, хутар) выбег на вуліцу* і г. д.

Пераасэнсаванне старых слоў нярэдка сумяшчаецца са змяненнем іх стылістычнай афарбоўкі. У выніку сфера ўжывання падобных слоў рэзка пашыраецца. Напрыклад, спачатку слова *істэрыя* ўжывалася толькі з тэрміналагічным значэннем 'нервовае захворванне', але потым набыло пераноснае значэнне 'нервозная ліхаманкавая дзейнасць' і стала агульнаўжывальным у шматлікіх выразах тыпу *ваенная істэрыя, палітычная істэрыя* і г. д. Падобнае міжстылявое пераразмеркаванне слоў і значэнняў абумоўлена пастаянным узаемадзеяннем літаратурнай мовы і сацыяльных дыялектаў. У выніку гэтага ўзаемадзеяння масавае пераасэнсаванне тэрмінаў і спецыяльных слоў стала важнай крыніцай папаўнення слоўнікавага складу літаратурнай мовы. Разам з тым цяга ўсё большай колькасці людзей да набыткаў духоўнай культуры, да такой яе праявы, як мастацкая літаратура, прыводзіць да шырокага выкарыстання слоў у пераносных, часам нават індывідуальна-аўтарскіх значэннях, да азнаямлення шырокіх мас чытачоў з тропамі (метафарай, метаніміяй, эпітэтамі і інш.), што звычайна ўжываюцца пісьменнікамі ў мастацкіх творах. Такім чынам, каб свабодна выконваць самыя разнастайныя функцыі, беларуская літаратурная мова разам з утварэннем новых слоў пастаянна ўзбагачаецца за кошт пашырэння шматзначнасці ўжо існуючых і за кошт іх пераноснага ўжывання і стылістычнага вар'іравання. Усё гэта робіць яе больш гнуткай і рухомай, здатнай перадаваць самыя тонкія адценні чалавечай думкі, пачуцця.

Багатай крыніцай папаўнення беларускага слоўніка з'яўляецца запазычванне слоў (гл. **Запазычанні**). Ва ўмовах імклівай навукова-тэхнічнай рэвалюцыі запазычванне іншамоўных слоў для абазначэння адпаведных прадметаў і паняццяў — жыццёвая неабходнасць, абумоўленая нашымі сувязямі з іншымі народамі. Такія словы ёсць у кожнай мове. Аднак, перш чым ужыць іншамоўнае слова, трэба спачатку «добра абшарыць кішэні сваёй памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі — а можа і знойдзецца якраз тое, што ўжо ўжывалася і чамусьці забыта ці невядома нам» (Я. Колас). Пра тое, што магчымасці папаўнення беларускага літаратурнага слоўніка шляхам унутранага запазычвання дыялектных слоў з мясцовых гаворак яшчэ далёка не вычарпаны, яскрава сведчыць мастацкая проза такіх сучасных майстроў слова, як І. Пташнікаў, В. Адамчык, А. Наварыч і інш. Вось чаму лексічныя багацці розных беларускіх дыялектаў былі і яшчэ доўгі час будуць галоўнай крыніцай для ўзбагачэння і ўдасканалення мовы нашай мастацкай літаратуры. Галоўнае, каб пры ўвядзенні мясцовага слова пісьменнікі, журналісты і іншыя знаўцы мовы памяталі слушную перасцярогу М. Лобана адносна таго, што «няма патрэбы, вядома, выцягваць са дна гісторыі тое, што абрасло мохам, даўно памерла і толькі дзе-нідзе, далёка не ў цэнтры жыцця, выпадкова, як на галіне павярэджаны ліст, прысохла ў якой-небудзь гаворцы. Не гэтая лексіка і не падобныя да яе іншыя моўныя з'явы вызначаюць нацыянальную спецыфіку нашай мовы». Што ж датычыцца ўзбагачэння беларускага слоўніка шляхам знешняга запазычвання іншамоўных слоў, то да цяперашняга часу асноўнай крыніцай такіх запазычанняў для нашай літаратурнай мовы застаецца мова рускага навуковага і перыядычнага друку. Крыніцы папаўнення беларускага слоўніка з'яўляюцца багатымі і разнастайнымі, хоць інтэнсіўнасць іх выкарыстання мяняецца. Часам фармальны падыход да папаўнення слоўнікавага складу беларускай мовы нават збядняе яго. Вынікам гэтага становіцца ўвядзенне ў нашу літаратурную мову асобных наватвораў, незразумелых шырокаму чытачу, рэгіянальных дыялектызмаў, празмерна спецыялізаваных тэрмінаў, непатрэбных запазычанняў, якія складаюць канкурэнцыю свайму роднаму слову, і наогул няўдалае і недакладнае выкарыстанне любога беларускага слова. Адмоўна адбіваецца на лексічных нормах літаратурнай мовы і празмерна частае ўжыванне слоў-паразітаў і так званых «модных» слоў, што прыводзіць да спустошвання іх зместу, і механічнае чаргаванне сінонімаў і блізказначных слоў у нашым маўленні, якое вядзе да сцірання семантычных адрозненняў паміж імі, і злоўжыванне прастамоўнай лексікай, вульгарызмамі. Пазбавіцца ад такога падыходу да крыніц папаўнення беларускага слоўніка, а таксама ад усіх іншых дрэнных моўных звычак дазваляе толькі штодзённая, карпатлівая праца з лексікаграфічнымі даведнікамі розных тыпаў і сістэматычнае ўдумлівае чытанне мастацкай, навукова-папулярнай і іншай літаратуры на роднай мове.

*Літ.:* Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970; Баханькоў А. Я. Развіццё лексікі беларускай літара-

турнай мовы ў савецкі перыяд. Мн., 1982; Шчэрбін В. К. Пра багацце беларускай мовы // Нар. асвета. 1984. № 5.

*В. К. Шчэрбін.*

## КУЛЬТУРА МАЎЛЕННЯ

Культура маўлення прадугледжвае ўсебаковае, поўнае веданне рэальнай сістэмы мовы ў яе гістарычным развіцці, валоданне формамі і стылямі сучаснай літаратурнай мовы ў адпаведнасці з мэтамі і задачамі зносін. Сучасны падыход да праблем маўленчай культуры ўлічвае шырокі спектр пытанняў, звязаных з функцыяніраваннем і эвалюцыяй беларускай мовы і яе норм у структуры мовы нацыі, узрастаннем сацыяльнай і літаратурна-эстэтычнай ролі мовы ў сённяшнім жыцці народа. Практычныя і тэарэтычныя задачы маўленчай культуры носьбітаў беларускай мовы сталі зараз актуальнымі задачамі развіцця лінгвістычнай навукі.

Тэрмін «культура маўлення» мае два значэнні: 1) сістэма камунікатыўных якасцей маўлення (правільнасць, дакладнасць, лагічнасць, выразнасць, багацце і разнастайнасць, дарэчнасць, чыстата і лаканічнасць); 2) вучэнне пра сістэму камунікатыўных якасцей маўлення.

Цэнтральнай з пералічаных якасцей маўлення з'яўляецца п р а в і л ь н а с ц ь, галоўны аб'ект якой — паняцце нормы. Менавіта правільнасць маўлення забяспечвае яго адзінства, «ахоўвае» адназначнасць, агульназразумеласць інфармацыі, якая перадаецца і ўспрымаецца. Вядома, нормы мовы і маўлення мяняюцца ў адпаведнасці з агульнай дынамікай лексіка-фразеалагічнага і сінтаксічнага ўзроўняў мовы, яе граматычнага ладу. Усебаковае сінхронна-нарматыўнае, дынамічнае апісанне мовы само па сабе дае магчымасць убачыць яе блізкае мінулае і магчымае будучае. Правільнасць маўлення, такім чынам, заключаецца ў адпаведнасці яго матэрыяльнай (моўнай) структуры тым законам і правілам, якія дзейнічаюць у мове. Правільнасць маўлення з'яўляецца па сутнасці прадметам школьнага навучання пераважна ў галіне граматыкі і фанетыкі.

Правільнасць маўлення — гэта творчы характар гаварэння, які прадугледжвае мэтазгоднасць выкарыстання тых або іншых моўных адзінак у працэсе камунікацыі. У гэтых адносінах відочнай становіцца сувязь правільнасці і д а к л а д н а с ц і маўлення. Дакладнасць грунтуецца на лексіка-семантычных нормах і выяўляецца ў адпаведнасці сэнсавага боку маўлення сістэме паняццяў. Дакладнасць, такім чынам, прадугледжвае строгую адпаведнасць паміж агульнапрынятым значэннем слова (звароту) і яго прымяненнем на практыцы. Недакладнымі будуць выказванні тыпу: *Немалаважную ролю* (трэба: *значэнне) тут мае актывізацыя работы з тымі, хто накіраваны на вучобу сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі* (Звязда, 2.4.81); *У агульнай працы... нараджаецца гонар* (трэба: *гордасць) за тых, хто заваяваў свабоду, ахоўвае мір на зямлі* (Настаўніцкая газета, 12.6.82); *У арсенале* (трэба: *рэпертуары) народнага хору звыш 500 песень* (Вячэрні Мінск, 22.1.71); *Перш чым ехаць у Каралеўцы, я рашыў нанесці візіт* (трэба: *наведацца, зайсці) у кантору калгаса «Рассвет»* (Мінская праўда, 22.5.74).

Дакладнасць маўлення забяспечваецца веданнем мнагазначнасці слова (гл. **Полісемія**) ці фразеалагізма. У працэсе гаварэння (дыялога) субяседнік часам па-свойму ўспрымае, разумее полісемантычную адзінку — не з тым значэннем, якое «закадзіравана». У такіх выпадках узнікае сітуацыя непаразумення. Напрыклад, Ганна Ціханаўна ў размове з Галубовічам (К. Крапіва. «На вастрыі») слова *абараняцца* ўспрымае са значэннем 'адбіваць напад праціўніка, ворага'. Галубовіч жа гаворыць пра тое, што яму трэба на спецыяльным вучоным савеце дабівацца прызнання вартасці сваёй дысертацыі, абараняць яе.

Каб пазбегнуць недакладнасці словаўжывання, неабходна дбайна абыходзіцца з паронімамі — аднакаранёвымі словамі, што адрозніваюцца значэннем і словаўтваральнай структурай *(асобны — асаблівы, бескарысны — бескарыслівы, факт — фактар)*. Параўнаем у кантэкстах: *Пасевы больш позніх тэрмінаў сяўбы павінны быць узяты пад асобы* (трэба: *асаблівы) кантроль* (Гомельская праўда, 18.3.81); *Цікаўнасць да матчаў дынамаўцаў вялікая. Аб гэтым гавораць два фактары* (трэба: *факты). Па-першае, пастаянныя аншлагі ў Палацы спорту. Па-другое, пісьмы мінчан* (Вячэрні Мінск, 8.11.76). Істотная ўмова дакладнасці — веданне сінаніміі, стылістычнай дыферэнцыяцыі слоў-сінонімаў (гл. **Сінанімія**).

Абавязковым кампанентам маўленчай культуры з'яўляецца л а г і ч н а с ц ь маўлення — такая яго якасць, што грунтуецца на акрэсленасці думкі, паслядоўнасці яе разгортвання (выкладу), доказнасці аргументаў, абгрунтаванасці і бездакорнасці вывадаў. Лагічнасць патрабуе такой арганізацыі маўлення, пры якой семантычныя сувязі паміж яго элементамі (словамі, сказамі) адпавядаюць законам логікі, законам мыслення. Існуюць пэўныя ўмовы лагічнасці. Па-першае, гэта — правільны парадак слоў (звычайна аналічнасці спосабу дзеяння, меры і ступені папярэднічаюць выказніку, дапасаванае азначэнне — азначаемаму слову, недапасаванае азначэнне, як правіла, ідзе пасля яго і інш.). Пры наяўнасці аманімічных форм назоўнага і вінавальнага склонаў назоўнікаў на першае месца ставіцца форма назоўнага склону (*дзень* змяняе ноч; *званок* перарваў урок). Па-другое, неабходна сачыць, каб у маўленні словы не пярэчылі адно аднаму. Па-трэцяе, трэба правільна спалучаць сказы, каб яны не пярэчылі сэнсава адзін аднаму. Вось, напрыклад, які адказ (як рэакцыя на крытыку) атрымала «Звязда» ад службовай асобы: *Зразумела, далёка яшчэ не ўсё зроблена, не ўсе рэзервы прыведзены ў дзеянне. Можна сказаць, мы прайшліся толькі па вярхах. Увогуле, будзем і далей працаваць у гэтым кірунку* (Звязда, 27.3.84). Па-чацвёртае, лагічнасць маўлення патрабуе правільнага выкарыстання займеннікаў 3-й асобы. Паводле правіл, ужыты ў сказе займеннік 3-й асобы павінен паказваць на бліжэйшы да яго назоўнік таго самага роду і ліку. Параўнаем нелагічнае: *Шлях Барыса... вельмі характэрны для гэтага калектыву. Чаму? Ды таму, што ў ім* (у шляху ці ў калектыве?) *праяўляецца атмасфера ўсеагульнай увагі да ведаў* (Чырвоная змена, 13.12.81).

Названыя вышэй камунікатыўныя якасці цесным чынам звязаны з в ы р а з н а с ц ю маўлення — такімі асаблівасцямі яго структуры, якія падтрымліваюць увагу і цікавасць чытача ці слухача, будзяць думкі і пачуцці. Маўленчая выразнасць можа дасягацца самымі звычайнымі моўнымі сродкамі, калі аўтар умела паставіць іх у патрэбнае слоўнае акружэнне. Функцыі агульнаўжывальных сродкаў рэзка мяняюцца ў мове мастацкай літаратуры, калі яны трапляюць у новае стылістычнае асяроддзе. Напрыклад, у вершы Я. Купалы «Крыжы» на слова *крыж* і яго вытворныя прыпадае асноўная нагрузка ў плане рэалізацыі ідэйнай задумы аўтара. Паўтараючыся больш за дзесяць разоў, гэта слова кожны раз высвечвае новыя семантычныя адценні — арыгінальныя сэнсавыя прырашчэнні. Параўнаем: *Чуць мы божы свет убачым, // І да самай да магілы // Усё, як ёсць,* ***крыжамі*** *значым, // Ці то міла, ці не міла. // Як у хаце нарадзіўся, // Бабка* ***крыжам*** *прывітала: // Як у цэркве ахрысціўся, //* ***Крыж*** *кума падаравала. // Як пайшлі дні маладыя, // Зноў без* ***крыжа*** *ані трошкі: // Дзе ні ступіш,* ***крыжавыя*** *// І гасцінцы і дарожкі. //* ***Крыж*** *баліць табе, бядняе, // Ад той цяжкай ад той працы, //* ***Накрыж*** *латы у сярмязе, //* ***Накрыж*** *дзюркі ў тваёй хатцы. // Пальцы* ***накрыж*** *ты складаеш // Ад напраснай ад напасці; //* ***Крыжам*** *злыдняў адганяеш, // Каб ад крыўды не прапасці. // Доляй мучаны паганай, // След слязой пачнеш крывавіць; //* ***Крыжам ляжаш распластаны,*** *// На сваім*

*абы паставіць. // **Крыжам ляжаш** за парогам, // У той цэркве, дзе хрысціўся, // **Крыжам ляжаш** перад богам, // Каб цябе ён не забыўся. // Так жыццявa **крыж** мусіш **несці,** // Як дзяды твае насілі, // А як данясеш да смерці,— // **Крыж** паставяць на магіле.*

Існуюць разнастайныя сродкі і спосабы выразнасці: метафара, метанімія, сінекдаха, параўнанне, эпітэт і інш. Пэўныя магчымасці для дасягнення выразнасці маўлення заключаны ў полісеміі, аманіміі (гл. **Аманімія**), параніміі (гл. **Паранімія**), антаніміі (гл. **Антанімія**). Істотнае значэнне мае гукавая арганізацыя маўлення, ці гукапіс. Вось як, напрыклад, у вершы «Трое ў начы» С. Дзяргай перадае адчуванне партызана, які ноччу ідзе на заданне: *Нешта недзе цырыкнула: zurück... // zurück... // zurück... // Не, гэта не чужынцы. // Гэта толькі наская сонная пташка ў кустах. // Недзе нешта цяжка дыхала: halt... // halt... // halt... // Не, гэта не чужынцы, // Гэта толькі нашае ўласнае дыханне.*

Не менш важным сродкам памацнення выразнасці з'яўляецца сінтаксіс. Выразнасць маўлення забяспечваецца арыгінальнасцю і самастойнасцю мыслення, усебаковым веданнем прадмета і выяўленчых магчымасцей мовы і яе стыляў.

У шэрагу адзначаных камунікатыўных якасцей своеасаблівае месца займае ч ы с т а т а маўлення. Чыстым прынята называць маўленне, пазбаўленае пазалітаратурных моўных элементаў (слоў, словазлучэнняў). Засмечваюць маўленне без патрэбы ўжытыя запазычанні, непрадуманa выкарыстаныя дыялектызмы, жарганізмы, штампы і канцылярызмы, лаянкавыя словы і звароты.

Надзвычай істотнай камунікатыўнай якасцю маўлення з'яўляецца яго б а г а ц ц е (разнастайнасць). Яно грунтуецца на індывідуальных магчымасцях носьбітаў мовы карыстацца яе скарбамі, на ўменні будаваць, арганізоўваць маўленне ў залежнасці ад ступені авалодання слоўным запасам у яго стылістычным расслаенні. Некаторыя вучоныя лічаць, што актыўны слоўнік чалавека дасягае дзесяці—пятнаццаці тысяч слоў. Падлічана, што, напрыклад, Гамер у сваіх творах выкарыстаў каля 9000 слоў, Шэкспір — каля 20 000, Шаўчэнка — каля 10 000, Дантэ («Боская камедыя») — 5860, Сервантэс — каля 17 000, Гогаль («Мёртвыя душы») — каля 10 000, Ясенін — 18 890. Слоўнік мовы Пушкіна ўключае 21 197 розных слоў на 544 777 словаўжыванняў. Маўленне тым багацейшае, чым радзей паўтараюцца ў ім адны і тыя ж знакі і ланцужкі знакаў.

Адрозніваюць багацце лексічнае, фразеалагічнае, семантычнае, сінтаксічнае і інтанацыйнае.

Своеасаблівае месца ў сістэме камунікатыўных якасцей займае д а р э ч н а с ц ь маўлення. Яна засноўваецца на такім падборы, такой арганізацыі моўных сродкаў, якія адпавядаюць тэме паведамлення, яго лагічнаму і эмацыянальнаму зместу, мэце і ўмовам зносін, складу слухачоў ці чытачоў. Адрозніваюць дарэчнасць кантэкстуальную, стылявую, сітуацыйную і асобасна-псіхалагічную. Кантэкстуальная дарэчнасць прадугледжвае наяўнасць сэнсавага адзінства слоў і словазлучэнняў у кантэксце, аднароднасць яго стылістычнай танальнасці. Нельга беспадстаўна змешваць у адным і тым жа кантэксце сродкі з рознай стылістычнай і экспрэсіўнай афарбоўкай; недарэчным лічыцца спалучэнне жывой, непасрэднай гаворкі з навуковымі тэрмінамі, канцылярскімі зваротамі. «Веданне законаў будовы мовы, ладу яе памагае дасягнуць натуральнасці гучання, даступнасці розным колам чытачоў,— падкрэслівае Я. Скрыган.— Можна, напрыклад, сказаць: «Гаспадыня гатавала снедаць»,— гэта будзе натуральна і проста. А можна сказаць: «Гаспадыня займалася гатаваннем снедання» — гэта будзе цяжка, вы адчуеце, што тут нешта робленае і лішняе». (С к р ы г а н Я. Выбр. тв. Т. 2. Мн., 1975. С. 304).

Стылявая дарэчнасць патрабуе адрозніваць кніжна-літаратурныя і прастамоўна-гутарковыя адзінкі. У кожным стылі, як вядома, па-рознаму вырашаецца пытанне пра дапушчальнасць выкарыстання тых ці іншых сродкаў. Змешванне, спалучэнне моўных сродкаў, што належаць да розных стыляў, павінна быць унутрана апраўданым. Непрадуманасць мастацкіх сродкаў, нематываваны пераход, напрыклад, ад жывога маўлення да газетнага стылю рэзка зніжае мастацкія вартасці твора. У мастацкім стылі могуць спалучацца словы і звароты, уласцівыя іншым стылям. Часам пісьменнікі знарок уводзяць у тканіну мастацкага твора (напрыклад, у дыялог) словы розныя паводле сваёй стылявой прыналежнасці. Але ў такім разе дасягаецца стылістычны эфект. Часта ў творах мастацкай літаратуры можна сустрэць выразныя элементы публіцыстычнага стылю. Напрыклад, у раманах К. Чорнага «Трэцяе пакаленне», «Бацькаўшчына», «Люба Лук'янская», «Вялікі дзень» старонкі публіцыстыкі вызначаюцца вастрынёй думкі і страснай усхваляванасцю. У іх гучыць прамоўніцкая інтанацыя (напрыклад, прамова Кандрата Назарэўскага ў час суда над Міхалам Тварыцкім).

Сітуацыйная дарэчнасць дыктуе выбар моўных сродкаў у адпаведнасці з сітуацыяй маўлення. Няма гэтай адпаведнасці, напрыклад, у вершы Я. Непачаловіча «Даведкі», дзе дарожнаму абходчыку аўтар прыпісвае такія ўзнёслыя словы аб слядах... ад аўтамашын: *І патыхае шчасцем, // Цяплом ад тых слядоў, // Гатоў да іх прыпасці, // Іх цалаваць гатоў...* У нарысе «Выпадак на хутары» С. Знаёмы так апісвае карціну вялікіх чалавечых пакут: *Амаль увесь эшалон галадаючых з Паволжа выкаціў тыфус. Узніклі вазамі тарабанілі мерцвякоў на могілкі.* Вядома, словы ў абодвух выпадках не падпарадкаваліся аўтарам. Гэтакаю ж недарэчнасцю лічыцца выкарыстанне абрэвіятур у тэкстах прывітальных адрасоў.

Асобасна-псіхалагічная дарэчнасць прадугледжвае асцярожнае абыходжанне са словам, улік характару субяседніка, асаблівасцей зносін. Неасцярожнае слова можа параніць чалавека. «Такое слова,— піша А. Каўрус,— асуджаецца ў народзе як найбольшае зло: Словы — гужы, за сэрца цягнуць. Рана загоіцца, злое слова — ніколі» (К а ў р у с А. Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989. С. 72).

Дарэчнасць цесна звязана з л а к а н і ч н а с ц ю (сціслацю) маўлення, якая падпарадкавана дзейнасці закону «моўнай эканоміі» (О. Есперсен), закону «эканоміі маўленчых намаганняў» (А. Марціне). Сутнасць яго ў тым, што ў працэсе выкарыстання адзінак мовы носьбіты яе як бы адбіраюць найбольш рацыянальныя, зручныя для зносін сродкі. За кошт гэтага тэкст скарачаецца, але павялічваецца або застаецца нязменнай яго інфарматыўнасць. Лаканічнасць праяўляецца ў замене словазлучэнняў з устойлівай намінацыяй аднаслоўнымі найменнямі, у выкарыстанні абрэвіяцыі, слоў, што ўзніклі на аснове фразеалагізмаў *(абіваць бакі — абібок; скаліць зубы — скалазуб, зубаскал)*, у эліптычнасці слоўных комплексаў *(адным словам — словам)*. Істотным сродкам лаканізацыі з'яўляецца непаўната сінтаксічных канструкцый — простых і складаных сказаў (асабліва ў дыялогу). Але існуюць і супрацьлеглыя працэсы, у выніку чаго ўзнікае так званы моўны лішак *(пяць чалавек студэнтаў, дамоклаў меч небяспекі, свежы сырадой)*. Літаратуразнаўцы, мовазнаўцы слушна гавораць пра тое, што ў добрым мастацкім творы нават слоўны недахоп можа садзейнічаць дакладнаму адлюстраванню вобраза.

Такім чынам, культура маўлення прадугледжвае даволі высокі ўзровень агульнай культуры чалавека. Важнейшымі ўмовамі культуры маўлення з'яўляюцца высокая лінгвістычная свядомасць носьбітаў мовы і любоў да яе.

*Літ.:* А р а ш о н к а в а Г. У., Л е м ц ю г о в а В. П. Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы. Мн., 1987; Г о л о в и н Б. Н. Основы культуры речи. М., 1980; С к р ы г а н Я. Ранішнія росы. Мн., 1965; К а ў р у с А. А. Культура

слова. Мн., 1983; Лепешаў І. Я. Парадак слоў і лагічнасць маўлення // Бел. лінгвістыка. Мн., 1986. Вып. 30; Сучасная беларуская мова: (Пытанні культуры мовы). Мн., 1973; Шылава А. В. Дакладнасць словаўжывання // Культура мовы журналіста. Мн., 1984. Вып. 2; Цікоцкі М. Я. Сугучнасць слоў жывых... Мн., 1981; Янкоўскі Ф. М. Пытанні культуры мовы. Мн., 1961; Яго ж. Само слова гаворыць. Мн., 1986. *Т. І. Тамашэвіч.*

## «КУЛЬТУРА МОВЫ ЖУРНАЛІСТА»

Зборнік артыкулаў, прысвечаны аналізу мовы і стылю сродкаў масавай інфармацыі. Выдаецца кафедрай стылістыкі і літаратурнага рэдагавання факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Выходзіць з 1982 г. раз у два гады (у 1992 г. выйшаў 6-ы выпуск) пад рэдакцыяй М. Я. Цікоцкага і А. І. Наркевіча. Мае 4 раздзелы: «Тэорыя: праблемы, меркаванні», «Мова газеты, радыё і тэлебачання», «Стылістыка газетных жанраў» і «Слова — журналістам-практыкам». Аўтары даследуюць праблему руска-беларускага моўнага ўзаемадзеяння, лексічнай і граматычнай інтэрферэнцыі (Кусянкоў М. С. Некаторыя праявы руска-беларускай лексічнай інтэрферэнцыі на старонках перыядычнага друку. Вып. 2. 1984; Шылава А. В. Дакладнасць словаўжывання. Тамсама), парушэнні ва ўжыванні і граматычным афармленні знамянальных разрадаў слоў (Наркевіч А. І. Граматычная норма і варыянтнасць. Вып. 1. 1982; Яго ж. Пра варыянтнасць і нарматыўнасць граматычных форм у сістэме прыметнікаў. Вып. 2. 1984), пытанні дакладнага ўжывання слоў, фразеалагізмаў, тэрмінаў [Карповіч М. П. Словы ў ацэнцы носьбітаў мовы. Вып. 3. 1986; Грабчыкаў С. М. Фразеалагізмы на газетнай паласе (аб недакладнасці ўжывання). Вып. 3. 1986; Красней В. П. Тэрмін і норма. Вып. 4. 1988].

Асобнае месца ў зборніку займаюць артыкулы па праблемах стылістыкі і псіхалінгвістыкі (Цікоцкі М. Я. Пра некаторыя асаблівасці мовы газеты як функцыянальнай разнавіднасці публіцыстычнага стылю. Вып. 1. 1982; Цітова А. І. Псіхалінгвістычны аналіз успрыняцця вобразных сродкаў мовы газеты. Тамсама).

У спецыяльным раздзеле падрабязна разглядаюцца моўныя асаблівасці газетных жанраў (Мароз Л. Я. Інтэрв'ю: Стылістыка пытанняў і адказаў. Вып. 3. 1986). Паасобныя публікацыі прысвечаны аналізу мовы і стылю некаторых беларускіх пісьменнікаў і публіцыстаў (А. Казловіча, Я. Сіпакова, П. Якубовіча).

Назіраннямі над мовай беларуска- і рускамоўных газет дзеляцца журналісты А. Ціхановіч, Л. П. Мшар, М. С. Трахімовіч, А. К. Бігайдараў, М. В. Малышыц, Г. У. Бараўцоў, М. С. Кусянкоў і інш.

Зборнік садзейнічае нармалізацыі мовы друкаваных выступленняў, чысціні і дакладнасці ўжывання выяўленчых сродкаў. *А. І. Наркевіч.*

## КУЛЯШОЎ АРКАДЗЬ АЛЯКСАНДРАВІЧ



Беларускі паэт А. А. Куляшоў нарадзіўся 24 студзеня 1914 г. ў в. Саматэвічы Касцюковіцкага раёна. Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры УССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР 1946 г. (за паэму «Сцяг брыгады»), 1949 г. (за паэму «Новае рэчышча»), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі 1968 г. (за паэмы «Грозная пушча», «Толькі ўперад»), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы 1970 г. (за пераклады вершаў і паэм М. Лермантава, «Энеіды» І. Катляроўскага, «Спеву аб Гаяваце» Г. Лангфела). Вучыўся ў Беларускім вышэйшым педагагічным інстытуце (1931—33). Працаваў у газеце «Чырвоная змена» (1934), літаратурным рэдактарам Беларускага радыё (1934—36), літаратурным кансультантам кабінета маладога аўтара пры СП БССР (1936—37), у армейскай газеце «Знамя Советов» (1941—43), у Беларускім штабе партызанскага руху. У 1945—46 гг. А. Куляшоў працаваў рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва», у 1958—67 гг.— начальнікам сцэнарнага аддзела, галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». Памёр А. Куляшоў 4 лютага 1978 г.

Стыль твораў А. Куляшова вызначаецца рамантычнай адухоўленасцю, разгорнутай метафарычнасцю, багаццем вобразна-асацыятыўных сувязей. Але, перш чым дасягнуць сапраўдных вышынь філасофскага шматабдымнага асэнсавання сучаснасці, куляшоўскі стыль значна эвалюцыяніраваў.

Рамантычна-ўзнёслае слова на пачатку творчай дарогі А. Куляшова ператваралася, часам праз выдаткі і крайнасці мастацкіх эксперыментаў, у адметную моўна-стылістычную паэтычную плынь.

З першых сваіх зборнікаў «Росквіт зямлі» (1930), «Па песню, па сонца!..» і «Медзі дождж» (1932) А. Куляшоў звяртаецца да крыніц народнай творчасці, ад верша ідзе да паэмы. Паэмы «Крыўда» (1931), «Аманал» (1932), «Гарбун» («Антон Шандабыла», 1934) выявілі пошукі аўтарам новых сродкаў адлюстравання мінулага і сучаснасці, яны не пазбаўлены фармалістычных перакосаў і штучнасці. У паэме «Аманал» не заўсёды арганічна спалучаюцца канкрэтна-бытавыя, рэалістычна заземленыя і ўмоўныя, сімволіка-алегарычныя планы — у іменных словазлучэннях *ветравы сковыт, захадавы ранак, вячорнае сонца, тумановая цемрадзь, крапіўныя сцежкі, канюшынавы шум, русалчын месяц* ці *электрычныя плугі будуць трактаравымі сынамі* і інш.

На пачатку творчасці — у 1930-я гады — аснова мовы паэта — агульнаўжывальная народная лексіка, пераважна бытавая. Гэта — рэаліі паўсядзённага побыту селяніна: *калаўрот, кросны, жорны, дзежка, дранікі, ночвы, палатно, кудзеля, бакоўка, лучына, проса* і іншыя.

Акрамя агульнаўжывальнай, А. Куляшоў выкарыстоўвае разнастайныя групы спецыяльнай лексікі — тэрміналагічнай і прафесійнай (мовазнаўчыя і літаратуразнаўчыя тэрміны, грамадска-палітычную лексіку, ваенную тэрміналогію і інш.).

Дыялектная лексіка ў паэтычных творах А. Куляшова колькасна абмежаваная; гэта ўласналексічныя дыялектызмы: *кага́т* 'яма для бульбы', *камы́* 'бульбяная каша', *скало́цвіна* 'маслянка', *мажары* 'калёсы, воз'; граматычныя: *абдымацьмеш* 'будзеш абдымаць', *даглядацьмеш* 'будзеш даглядаць' і інш.

Сустракаюцца формы, словы і выразы, якія можна назваць аўтарскімі: *страданунць* («Музыка»), *выіскрыць* («Далёка да акіяна»), *землеўздрыг* («Пасля хваробы доўгай і цяжкой»), *радыёгадзіннік* («Цунамі»), *Млечная Гаць* («За зоры, за месік...») і інш.

Часта ненарматыўнае ўжыванне адпаведных форм вымагаецца зместам і аўтарскай задумай, уплывам народна-песенных традыцый: *Што ж з пасцелі сваёй не ўстаеш, // Можа, сілы не маеш* ***устаці?*** *// Што ж гасця свайго не пазнаеш? // Ці не можаш* ***пазнаці?*** («Алёнка»).

Мастацкаму вырашэнню задумы адпавядае і паралельнае ўжыванне ў тэксце паэмы «Сцяг брыгады» форм

*крычу — клікаю: Я **крычу** як глухому, // **Крычу** яму, клікаю, клікаю...*

У творах А. Куляшова 1960—70 гг. больш складаных і складанаскарочаных форм слоў: *Няма шляхоў да **самазахавання,** // Няма дарог да **светазабыцця** // У час ліхі **ўзаемапалявання** // Сіл супрацьлеглых: смерці і жыцця* («Цунамі»). У гэты час пісьменнік пашырае семантычны аб'ём і спалучальныя магчымасці тэрмінаў у кантэксце, у выніку чаго з'яўляюцца метафарычна пераасэнсаваныя словаспалучэнні: *трацілавая пуга перамогі, атам старога свету, вадародны жах, выбуховы грыб, ракетадромы смерці і жыцця.*

Дакладнае адчуванне сэнсу слова дазваляе паэту ажывіць радок выкарыстаннем сінонімаў, антонімаў, амонімаў: *Ёсць у паэта свой аблог цаліны, // Някрануты прастор для баразён, // Дзе ён працуе **з першае хвіліны** // **І да апошніх вечаровых дзён*** («Ёсць у паэта...»); *Сцвярджае час: заўжды **жыццю** на змену // Прыходзіць **смерць,** для ўсіх — адзін закон, // І некалі жыццёвую арэну // Пакіне род людскі на схіле дзён. // Ты **клічнік** ставіш, час! А я — **пытальнік*** («Сцвярджае час...»); *Адказваеш на мой сардэчны **захад** // Нязгодай, самай крыўднаю з нязгод. // Здаецца, павярніся я на **захад,** // Як тут жа ты павернешся на ўсход* («Парушыўшы законы прыцяжэння»).

З мастацкіх вобразных сродкаў у А. Куляшова асабліва актыўны эпітэт. Паэт не імкнецца да нечаканага, незвычайнага, ён умее выкарыстаць творча самае звыклае, нават агульнавядомае. Яго эпітэт неаднародны: цяжкаваты, падчас груваcткі ў ранніх творах, лёгкі і малады ў паэтычным цыкле 1939—40 гг. «Юнацкі свет» *(сонечнае заўтра, поле залатое, юнацкія часы, гармоні выпісныя, спелае жыта, роднае мястэчка);* важкі, сэнсава ўзважаны ў творах часу Айчыннай вайны (*родныя — вуліца, галінка, горад, Мінск, дзеці, мясціны, попел* («Сцяг брыгады»); эпічна-разважлівы ў пасляваенных творах [*чыстыя дажджы, крутыя небасхілы, маўклівы лес, шчаслівыя твары, салдацкія сэрцы, душы падарожныя, вандроўны агонь* («Грозная пушча»)]; філасофска-ўзвышаны і сэнсава шматгранны ў творах 1960—70 гг. *(бязлюдная эра, жыццёвая арэна, вячысты паядынак, нешматслойная зямля, падгарматныя душы, безназоўная смерць, строгая муза).* Агульнамоўныя эпітэты ў зборніках гэтага часу набываюць часам нетрадыцыйнае значэнне, становяцца індывідуальна-аўтарскімі: паралельна з эпітэтамі сталымі *(чыстае поле, цёмны лес, цяжкая доля)* ужываюцца і такія, што выразна акрэсліваюць светапогляд аўтара, яго разуменне і стаўленне да складаных жыццёвых сітуацый: *халодны парог, маўклівая прызба, скамянелыя двары, даверлівыя рыбы, нечысць вадародная, сляпыя завеі, бесчалавечныя душы, трывожны запавет, легкадумная слава, вяльможнае сумленне, глухія радкі, маўклівы прысак* і шмат іншых.

Майстар мастацкага азначэння, А. Куляшоў гэтак жа ўмела карыстаецца параўнаннем: *вершы, як прысак; востры матчын галасок, як сярпок; лес жывы, як людзі; дзверы ў дом, нібы душу, насцеж адкрываю; маці, нібы плісіца* — некалькі параўнальных зваротаў, узятых з тэксту паэмы «Далёка да акіяна», але і яны даюць выразнае ўяўленне пра адчуванне паэтам сэнсавай важнасці, кантэкстуальнай дакладнасці і багатых выяўленчых магчымасцей гэтага вобразнага сродку.

Паэт ужывае параўнанні рознай структуры, і падчас у кароткім вершаваным кантэксце яны ідуць адно за адным, дапаўняючы сэнс папярэдніх, раскрываючы вобраз усебакова і аб'ёмна: *Нібы застолле, апусцелі сны* («Датуль мне ў снах...»); *За годам год, ляцяць дзесяцігоддзі, // Як дождж, як пыл, як снег на галаву, // На той зямлі, дзе змалку я жыву* («За годам год...»); *Гадзіннік мой — не сонца, што ў зеніце, // Гадзіннік мой — не сэрца, што ў грудзях, // Сваім дакладным часам на арбіце // Сама зямля мой вымярае шлях* («Гадзіннік мой...»).

Арыгінальна і свежа гучаць у паэта апісальныя звароты — перыфразы, падчас эўфемістычныя, што побач з традыцыйнымі для беларускай мовы адзінкамі ажыўляе вершаваны тэкст: *марудных гадзін уладар* — каляндар; *спадарожніца змрочная* — смерць; *чорны баль* — вайна; *змучаны край* — Беларусь; *светлая бура* — каханне («Грозная пушча»); *лекар болю* — час; *гнеў зямлі* — цунамі; *вокамгненная хвароба* — інфаркт; *змрочны маўзалей зямлі* — магіла; *жыцця майго выток* — зямля; *камандзір мой адзіны* — сумленне; *былых гадоў, гадоў наступных няўпынны дэманстрант* — душа (зборнік «Сасна і бяроза»).

У творах А. Куляшова, асабліва ў пасляваенных і пазнейшых зборніках, ужываюцца трансфармаваныя фразеалагізмы — са зменай формай кампанентаў, уключэннем у структуру ўстойлівай адзінкі слоў кантэксту: *Сыпаць горкую соль успамінаў на свежыя раны* — сыпаць соль на раны («Сцяг брыгады»); *Цяжкі наш хлеб. Ад лёсу не прасі ты // Лягчэйшага. Лягчэйшага няма* — лёгкі; цяжкі хлеб («Хамуціус»); *Я вам не раю масла падліваць // У той агонь, што выбухнуць гатовы* — падліваць масла ў агонь (тамсама); *Вынось адгэтуль і цяжкі свой крыж* — несці крыж (тамсама).

У вершаванай мове Куляшова іншы раз рыфмуюцца кампаненты фразеалагізма і аманімічныя ім словы: *Ферму я падпаліў? Падпаліў. // Прызнаюся вам, людзі. // Пеўні тыя, што з дымам пусціў, // Мяне **вывелі ў людзі*** («Сцяг брыгады»). Кантэкст ствараецца на вобразнай аснове фразеалагізма *пусціць (чырвонага) пеўня*: сэнсавага лексічнага адпаведніка *падпаліць.*

Удала скарыстоўвае паэт і такую асаблівасць фразеалагізмаў, як магчымасць варыянтнага ўжывання. Традыцыйная форма фразеалагічнай адзінкі *ад ног да галавы* ў Куляшова сустракаецца ў такіх варыянтах: *Стаў я іншым, суровым, // Стаў новым **ад ног да пілоткі,** // Чалавекам вайсковым,— // Былой не пазнаеш паходкі* («Сцяг брыгады»); *Падлетак я — **ад пят і да валос,** // Таварышка мая — лясная сцежка* («Падлетак я...»). У гэтых кантэкстах адрозная ад звыклай і спалучальнасць фразеалагізма са словамі кантэксту, што пашырае семантыку адзінкі: традыцыйна фразеалагізм *з ног да галавы* спалучаецца з дзеясловамі канкрэтнага дзеяння (*агледзець, абліць* і г. д.), а ў Куляшова — ***новы** ад ног да пілоткі, **падлетак** ад пят да валос.*

Варыянты фразеалагічных адзінак *канцы з канцамі звязаць (звесці)* і *шыта белымі ніткамі* ўжываюцца ў кантэксце: *Гэй, ці **сыдуцца толькі з канцамі канцы** // Гэтых **строчаных белымі ніткамі** спраў?* («Грозная пушча»).

Адным з вядучых у індывідуальным стылі А. Куляшова з'яўляецца прынцып кантрасту. У 5-томным зборы яго твораў выяўлены 362 антанімічныя пары. Гэта словазлучэнні і асобныя словы *згніць — таптаць лыкамі мох* 'памерці' — 'жыць': *Да цябе,— засмяялася госця вясёла,— // На экскурсіі будзе хадзіць наша школа. // «Дзе,— пытаць будзе,— вучань былы мой Цімох. // Ці ўжо **згніў,** ці яшчэ **топча лыкамі мох?»*** («Грозная пушча»).

Часам антонімы ўяўляюць сабой свабодныя словазлучэнні са значэннем становучай — адмоўнай якасці прамяні сонца — струмені тугі: *З неба льюцца бясконца і дзень, і другі // Замест праменяў сонца струмені тугі. // Льецца дождж. Быццам хоча ён змыць назаўжды // З усіх сцежак навокала Зосі сляды* («Новае рэчышча»); з проціпастаўленнем значэнняў *кароткае падарожжа — адлегласць у бяссмерце даўжынёй* 'памятаць заўжды' — 'забываць': *Бый кожны з вас адважных старцаў варты. // Шкада, што фініш быў не вартым вас. // Па-рознаму адлегласць паміж стартам // І фінішам нам адмярае час. // Адным, хто доўга жыў, зрабіўшы мала,— // Кароткім падарожжам за труной; // Другім, хто шмат зрабіў, пражыўшы мала,— // Адлегласцю ў бяссмерце даўжынёй* («Маналог»); часам несвабодныя словазлучэнні са значэннем кантрасту ілю-

зій і рэальнасці *горкі хлеб — хлеб салодкі: Зямля, зямля! Глядзіць жанчына з лодкі, // Гатовая змяніць тугу на смех, // Вандровак горкі хлеб — на хлеб салодкі // Шумлівых палуб і гасцінных стрэх* («Цунамі»); *падаць камень — падаць руку* 'перашкаджаць' — 'памагаць': *Мой брат! Я пакідаю свет. // Пішу табе не ліст, а запавет... // Узняўшы бунт, народужабраку // Мы камень падалі, а не руку* («Хамуціус»).

Артыкулы і выступленні А. Куляшова, дзе закранаюцца пытанні мовы, гэта, па-першае, водгукі на творчасць беларускіх аўтараў, па-другое, матэрыялы пра творчыя кантакты паэта з пісьменнікамі братніх рэспублік і думкі пра рускую класіку.

У артыкуле «Непарыўная сувязь з жыццём» А. Куляшоў аналізуе творы М. Засіма, звяртае ўвагу на іх «вобразную мову, жывы народны гумар, нечаканы рух думкі», адзначае сярод галоўных крытэрыяў ацэнкі паэтычных твораў талент, вобразнае мысленне (Зб. тв. Т. 5. Мн., 1977. С. 414). У гэтым плане ён вылучае верш «Камяні» М. Танка з яго зборніка «Каб ведалі». Паэт разважае пра пошукі формы, пра яе «інерцыю», «стылізатарства», настойвае на патрабавальнасці паэтаў у моўных пошуках. А. Куляшоў заклікае пісьменнікаў пастаянна абнаўляць лексічны запас: «Але справа яшчэ не ў адным слоўніку. У многіх вершах нашых паэтаў слоўнік як быццам сучасны. У ім няма нястачы і ў тэрмінах будзённа-бытавых, і ў тэхнічных, і газетна-публіцыстычных. Бяда ў тым, што звычайныя ў агульным ужытку словы ў рэдкіх выпадках пераходзяць у незвычайны ўжытак — паэтычны, кожнае слова, тым больш новае, супраціўляецца незвычайнаму яго ўжыванню. А паэт мусіць ставіць слова ў такое дапасаванне, каб яно было і нечаканае і эмацыянальна моцнае, і не страчвала пры гэтым свайго першароднага сэнсу. Не вынайдзена і не будзе вынайдзена рэцэптаў такога дапасавання, бо сакрэт яго ў таленце і індывідуальна-вобразным бачанні свету» (Куляшоў А. Зб. тв. у пяці тамах. Т. 5. Мн., 1977. С. 430). Паэт лічыць абавязковым вывучаць класіку, уводзіць у свае творы «празаізмы жывой сучаснай мовы, і яе навукова-тэхнічныя словы, і выразы бытавыя, і палітычныя, і публіцыстычную тэрміналогію газет» (тамсама. С. 431). На яго думку, менавіта аднастайнасць слоўнага матэрыялу вядзе да штампаў, але і адыходзіць ад звыклых форм і слоў трэба асцярожна: «Покуль слова, як бы яго ні скампраметаваў залішне часты ўжытак, бытуе ў мове, яно мае роўнае права на існаванне з новым» (тамсама. С. 432).

Індывідуальная паэтыка А. Куляшова, яго самабытныя вобразныя сродкі арганічна ўвайшлі ў скарбонку айчыннай паэзіі.

*Літ.:* Грынчык М. М. Аркадзь Куляшоў. Мн., 1964; Бярозкін Р. Аркадзь Куляшоў. Мн., 1978; Бечык В. Л. Шлях да акіяна. Мн., 1981; Куляшова В. Лясному рэху праўду раскажу... Мн., 1989; Губернатараў М. Асаблівасці паэтыкі Аркадзя Куляшова // Бел. мова і літ. ў школе. 1989. № 1; Данільчык З. П., Парфеявец В. В. Кантэкстуальныя антонімы і іх стылістычнае выкарыстанне ў мове твораў Куляшова // Бел. мова. 1989. Вып. 17.

*М. М. Аляхновіч.*

## КУПАЛА ЯНКА



Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч) — народны паэт БССР — нарадзіўся 7 ліпеня 1882 г. ў фальварку Вязынка Мінскага павета (цяпер Маладзечанскі раён Мінскай вобласці) у сям'і арандатара. У 1898 г. скончыў Бяларуцкае народнае вучылішча. Пасля смерці бацькі (1902) год працаваў на гаспадарцы, потым — хатнім настаўнікам, пісарам, памочнікам вінакура. У 1908—09 гг. — супрацоўнік «Нашай нівы». Вучыўся на агульнаадукацыйных курсах А. С. Чарняева ў Пецярбургу (1909—13), у народным універсітэце імя А. Л. Шаняўскага ў Маскве (1915). Быў рэдактарам «Нашай нівы» (1914—15). У студзені 1916 г. прызваны ў царскую армію. З 1919 г. жыў і працаваў у Мінску. Акадэмік АН БССР (1928), акадэмік АН УССР (1929). Памёр 28 чэрвеня 1942 г.

Першы надрукаваны верш на беларускай мове — «Мужык» (1905). Янка Купала — аўтар выдатных твораў паэзіі, драматургіі і публіцыстыкі, заснавальнік (разам з Я. Коласам) сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

У чароўны паэтычны свет Я. Купалы мы ўваходзім змалку: *І лягла ж цішына // У бары за гарой,— // Каб дравінка адна // Хоць кіўнула сабой* («Зімой у лесе»). Простыя, але глыбокія лірычным зместам мілагучныя радкі ідуць з чалавекам праз усё жыццё. Кожнае пакаленне чытачоў, засвойваючы спадчыну Я. Купалы, эмацыянальна, духоўна далучаецца да скарбніцы думак і пачуццяў, мараў і спадзяванняў нашых продкаў, імкнецца спазнаць сакрэты характва і моцы Купалавага слова.

Пачатак творчасці Я. Купалы прыпадае на гады рэвалюцыйнага ўздыму (1905—07), калі народы царскай Расіі выступілі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Вельмі актуальнай задачай для беларусаў было адраджэнне культуры, мовы. Увесь цяжар гэтай пачэснай працы лёг на плечы найбольш свядомых працаўнікоў і абаронцаў роднага слова — пісьменнікаў. Малады Купала пакутліва раздумвае над лёсам роднай мовы. У вершы «Мужык» беларускі селянін яшчэ нібы апраўдваецца за сваю мову, свой адукацыйны ўзровень: *Чытаць, пісаць я не умею, // Не ходзіць гладка мой язык, // Бо толькі вечна ару, сею,— // Бо я мужык, дурны мужык.*

Сярод вершаў Я. Купалы, прысвечаных мове, асэнсаванню яе ролі ў жыцці грамадства, бадай, самы палымяны, сацыяльна завостраны — «Роднае слова» (1908). Гэта гімн матчынай мове, яе сіле, неўміручасці: *Магутнае слова, ты, роднае слова! // Са мной ты на яве і ў сне; // Душу мне затрэсла пагудкаю новай, // Ты песень навучыла мяне!* Родная мова, паводле Купалы,— найважнейшы сродак выхавання чалавека-грамадзяніна, аснова духоўнай, мастацкай дзейнасці народа.

Бацькі Я. Купалы былі беззямельныя, і сям'і даводзілася часта пераязджаць з месца на месца, шукаючы працы. З дзяцінства будучы паэт палюбіў прыгожую мову жыхароў Міншчыны, Лагойшчыны, Барысаўшчыны. Мова беларускіх сялян, матчына мова і стала асновай яго паэтычных і драматургічных твораў. Пра гэта паэт кажа ў вершы «Мая навука»: *Мне мудрасці кніжнай не дай бог пазнаці, // Мой бацька не мог даць раскошаў такіх // Навучыўся я слоў беларускіх ад маці // І дум беларускіх без школы і кніг.*

Як падкрэсліваюць даследчыкі, у Я. Купалы была выключная памяць на жывое слова народа. Аднак грунт Купалавай мовы не зводзіцца толькі да згаданых сярэднебеларускіх гаворак (і часткова — паўночна-ўсходніх). Яго істотна дапаўняе вусна-паэтычная творчасць, якая не «прывязваецца» да пэўнай мясцовасці, а распаўсюджваецца па ўсёй Беларусі і, такім чынам, узбагачае палітру пісьменніка сродкамі агульнанароднай мовы. Характэрна, што ў купалаўскіх творах, напісаных паводле народ-

ных матываў, найменш сустракаецца вузкамясцовых моўных рыс.

Паэт не спыніўся ў сваёй «навуцы» на этапе засваення жывой народнай мовы і фальклору. Ён самастойна авалодваў кніжнымі скарбамі: знаёміўся з творамі беларускай літаратуры, чытаў паэзію і прозу польскіх, рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў, а некаторыя іх творы пераклаў на родную мову. Вывучаў Я. Купала помнікі старажытнага беларускага і ўсходнеславянскага пісьменства. Ён пераклаў на беларускую мову «Слова пра паход Ігаравы». У рэчышча Купалавай мовы сцякаліся крыніцы літаратурнага маўлення, якія бруілі ў культурным асяродку беларускага нацыянальнага адраджэння ў Вільні і Пецярбургу.

Пакажам некаторыя асаблівасці мясцовых гаворак, адлюстраваных у творах Я. Купалы. Вось некалькі дыялектных слоў з мовы жыхароў Міншчыны: *гойна* 'добра' *(Як ты* [поле] *мне за працу // Адплацішся* ***гойна,*** *// Да вясны к налецццю // Пражыву спакойна* — «Поле»); *знаць* 'прыкметна' *(Не* ***знаць,*** *дзе балотца, дзе лог, дзе папар* — «Зімою»); *краплісты* 'з буйнымі кроплямі' *(Пот* ***краплісты*** *// Худы мой твар мачыў, слязіў* — «Сон»); *наругацца* 'назаляць, дакучаць' ([*Сцяпан:*] *Як будзеш яму* ***наругацца,*** *дык гатоў яшчэ адбіцца, а я яго стараюся прыручыць* — «Паўлінка»); *піргнуць* 'штурхнуць' *(Як хмар недаступных махнатыя скібы, // Адна* [*хваля*] *адну схопіць,* ***піргне*** — «Над Іматрай»); *правіць* 'расказваць, апавядаць' *(Гэтак* ***правіў*** *у карчомцы // Раз убогі, Куксай званы* — «Калека»); *упякаць* 'страціць, марна загубіць' *(І пойдзе бядняк нешчаслівы, // Здароўя* ***упякаўшы*** *цвет, // Праз цёмныя боры, праз нівы // З жабрацкаю торбаю ў свет* — «Зімою»).

Апрача дыялектызмаў, у творах Купалы сустракаюцца русізмы *(дрож, недруг, ураг, грудзь, пасвяшчэнне)* і паланізмы *(айчызна, змарлы, млека, пакрыёма, цёнгле)*. Асноўная прычына іх ужывання — нераспрацаванасць лексічнай сістэмы беларускай мовы на пачатку 20 стагоддзя.

Яскравая марфалагічная асаблівасць мовы Я. Купалы — канчатак *-е, -а* ў 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў II спражэння: *ахопе, збура, прыкмеце, скосе, усходзе.* Такія формы (іх крыніца — мясцовыя гаворкі) адлюстроўваюць тагачасны ўзровень літаратурнай мовы, незамацаванасць граматычных нормаў і пэўную традыцыю беларускай мастацкай літаратуры. Параўнаем у Ф. Багушэвіча: *Чым то дзеецца на свеце, // Што не роўна* ***дзеле*** *бог...* («Бог не роўна дзеле»).

На арганічную сувязь мовы Купалы з народна-дыялектнай паказвае варыятыўнасць націску. Некаторыя назоўнікі, прыметнікі, словы іншых часцін мовы ў творах Купалы выступаюць і ў форме, адметнай ад кадыфікаванай: *галýб, лякáр; планы́, тыраны́; гасця́, звяра́* (родны склон, адзіночны лік); *вузкí, даўгí, дзікí, цвярды́; вы́сака; напісáна.* Сустракаюцца і аказіянальныя варыянты, калі зрушэнне націску абумоўлена будовай канкрэтнага вершаванага кантэксту: *Што сасню* ***вечаром...*** *// Усё выллю пяром* («З маіх песень»); *Ходзіш ты* ***вячорамі*** *// З ціхаю пакораю, // Бачаць неба з зорамі, // Полейка з разорамі* («З песень беззямельнага»). Змена націску ў словах — не паэтава сваволя. Такую з'яву часта назіраем у народных песнях: *Там за гаем зялянецькім // Брала ўдова лён драбненькі.*

У купалаўскім вершы знайшлі адлюстраванне рысы жывога маўлення. Так, у шматлікіх выпадках зафіксавана вымаўленне пачатковага *й* у словах: *Па жыццёвай па цярністай // Пуцявіне йду...* («Па жыццёвай пуцявіне»); *Я ж ціха йграю, хто ж ціхіх прымеце?* («Я не паэта»); *...І зоркі сталі ў небе йрдзеці* («Паляўнічы і пара галубкоў»). Цікавыя ўжыванні, якія сведчаць пра асваенне вуснай маўленчай практыкай беларускага народа слоў іншамоўнага паходжання са спалучэннямі *-ыя, -ія: камед'я, кампаня, матар'ял, пралетар'ят, эпітаф'я.* Вось адзін з прыкладаў: *Прагледзе й скажа: «****Матар'ялу,*** *// Каб прасачыці быт людзей // На Беларусі, тут нямала...»* («Каму вас, песні?..»). Часам Купала ўжывае слова ў форме, якая перадае характэрнае для вуснай мовы пры паскарэнні яе тэмпу выпадзенне гукаў: *запрэча* (запярэча), *вызве* (вызаве), *праступаць* (пераступаць), *прашкода* (перашкода), *спраўды* (сапраўды): ***Прашкоды*** *ўсе крышы, // На долю не крыўдуй...* («На добры стары лад»). Нарэшце адзначым страту гука на стыку слоў: *Янка сяк, то так // Лета прамадзеў, // Стаў жыць не* ***бы як,*** *— // Стаў есць больш, як еў* («Янка Канцавы»); *Пад лясок, за вёску, //* ***Бы*** *далей ад дому, // Ляціць на спатканне...* («Паніч і Марыся»). Словы гутарковай афарбоўкі *бы як, бы* адпавядаюць стылістычна нейтральным *абы-як, абы.* Разгледжаныя вышэй моўныя з'явы і факты канкрэтызуюць і пацвярджаюць думку, што адна з падвалін мовы Я. Купалы — родныя гаворкі.

Ды мова Я. Купалы выходзіць за межы родных яму гаворак. Так, у Купалавых творах сустракаем словы, не характэрныя для мовы карэнных жыхароў Міншчыны. Засваенне паэтам іншадыялектных слоў адбывалася ў працэсе непасрэднага кантакту з носьбітамі мясцовых гаворак ці праз пісьмовыя крыніцы. Як прыклад назавем слова *шчур* 'пацук' у вершы «Каму вас, песні?..»: *Хвалько паэта, знаць, не раз // Цаніць давай...* [*рукапіс*] *для* ***шчураў:*** *// А* ***шчуры*** — *спраўджана і ў нас — // Істоты подлыя, нізкія...* Паралельна з гэтым дыялектным словам у папярэдніх радках верша ўжыты літаратурны адпаведнік *пацук.*

Пра шырыню народнай асновы Купалавай мовы сведчаць граматычныя формы, у прыватнасці двухскладовы канчатак *-ае (-ое, -яе)* прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў у родным склоне адзіночнага ліку: *Вяселіць сонца цэлы свет // Надзеяй* ***блізкае*** *вясны* («Думкі перад вясной»); *Аб той славе небывалай //* ***Нашае*** *зямлі...* («Усе разам»); *Кабеты, дзяўчаты, // Борздзенька збірацца // Да* ***аднае*** *хаты, // Да супольнай працы!* («Тканне намёткі»). Такія формы ўжываюцца ў паўднёва-заходнім дыялекце. У творы Я. Купалы яны маглі прыйсці з літаратурнай мовы таго часу.

Сціплы ў жыцці, побыце, не вельмі гаваркі, паэт у сваіх вершах надзвычай актыўны прамоўца, суразмоўнік. Ён то голасна ў форме маналога выказвае думкі і памкненні селяніна *(Я мужык-беларус,— // Пан сахі і касы),* то вядзе гутарку, каб паказаць моц і веліч народа *(А хто там ідзе, а хто там ідзе...),* то кліча да дзейнасці, працы, змагання. Паклічны, публіцыстычны характар паэзіі Я. Купалы, абумовіў скарыстанне зваротнаў, формаў загаднага ладу ў іх шматстайнасці і нацыянальнай адметнасці.

Шырока ўжывае паэт дзеясловы загаднага ладу, у тым ліку з канчаткам *-ма: Дык* ***запейма,*** *хай імчыцца // Нашых песень рой!* («Усе разам»); *Дык* ***любімася,*** *суседзі! //* ***Кіньма*** *сваркі, звадкі; //* ***Жыйма,*** *як родныя дзеці // Адной нашай маткі* («Любімось, мае суседзі»); [Данілка:] *Дык* ***уцякайма*** *адгэтуль, мамачка! Там будзе нам усім хораша і весела.* ***Уцякайма!*** («Раскіданае гняздо»). Можна меркаваць, што Купала браў такія формы з літаратурнай мовы пачатку 20 стагоддзя, дыялектная ж крыніца іх — гаворкі Брэсцкай, Гродзенскай, паўднёвай часткі Мінскай і Гомельскай абласцей.

У Купалавай паэзіі актыўна выкарыстоўваецца клічная форма назоўнікаў у ролі зваротка. Прычым клічную форму набываюць не толькі традыцыйныя словы-звароты *(браце, дружа, нябожа, паночку, старча),* але і словы, арыентаваныя на кніжную сферу ўжытку: *дэпутаце, складальніку, украінча* і інш.: *Пасаромся,* ***дэпутаце,*** *// Хоць сваёй чорная бялізны* («Дэпутату №№»); *Гэй,* ***песняру*** *мой,* ***браце*** *мой родны, // Сэрца для гэтага* [*для шчасця краю, люду*] *дай, не жалей* («За пасвяшчэнне, вершык харошы...»); *Скажаш, напэўна, добры* ***чытальніку:*** *// Смутная песня твая, брат песняр! Ці ты не мог бы, рыфмаў* ***складальніку,*** *// З дум сваіх лепшы зрабіць для нас дар?* («Зімою»); *О, слаўны* ***ўкраінча,*** *сын верны народа! // Ты роднага слова ў сабе не глушый...* («Памяці Т. Шаўчэнкі»). Як бачым, зваротак, выража-

Аўтограф верша Я. Купалы «Эпіграма на самога сябе», напісаны лацінкаю.

ны клічнай формай,— дзейсны граматычны і стылістычны сродак. З яго дапамогай передаецца эмацыянальнасць мовы, шчырасць і адкрытасць тону паэтычнага выказвання.

Пра фальклорныя вытокі купалаўскага верша сведчыць выкарыстанне сродкаў і прыёмаў народнай паэтыкі: паралелізмаў, паўтораў, сталых эпітэтаў і інш.: *Не дубок пры ніўцы ў гаі, // Не ў лузе лілейка,— // Маладыя тут засядае // З сваёй дабрадзейкай* («Маладым на вяселлі»); *Жудка стогнуць рэкі, // Узбураны вясною, // Плачуць мае песні, // Галосяць са мною* («Плачуць мае песні»).

У паэзіі Я. Купалы часта сустракаецца характэрны для вуснай народнай творчасці прыём — шматпрыназоўнікавасць: ***Да** працы **да** роўнай, **да** волі шырокай // Ахвочы крычаці, ўзываці...* («Песенька для некаторых маладых людзей»); ***Ля** дарогі, **ля** далёкай, // **Каля** крыжавой, // Спіць карчма там адзінока...* («Забытая карчма»); *Як пайду я, пайду **па** загонах, // **Па** мазольным аратых сляду, // **Па** лугах і **па** борах зялёных, // І **па** сёлах убогіх пайду* («Як пайду я, пайду...»).

Прыкметнае месца ў творах Купалы займае таўталогія — паўтор блізказначных слоў або выразаў: *І роім у думках так цэлымі днямі, // Ды шчасце не **роіцца ройна...*** («Шчасце»); ***Шуміць шумненька** барок // Песняй жаласнянай* («Люлі, люлі, мужычок!»).

Цесна лучаць Купалаў верш з народнай паэзіяй сталыя эпітэты: *Кветкі дзеўчынка зрывала // Ля дубровы ля **зялёнай...** // Выйшаў хлопец з той дубровы, // Хлопец **пекны, стройны** гэткі. Удваечку ўжо шукаюць // Кветкі ў **буйнай** сенажаці* («Дзяўчынка і вянок»); *Мае поле, мае гоні — // Воблакі **сівыя,** // Мае стадка, мае коні —// Хмары **вараныя*** («З песень беззямельнага»).

Чэрпае Купала і з багатай скарбонкі народных параўнанняў: *Пара пасымкаў мятлічкі — // Броўкі мілыя ў сястрычкі; // Дзве пралескі — яе вочкі // Ці два ў збожжы васілёчкі; // Яе губкі — не калінкі,— // Проста спелыя малінкі!* («Мая дзяўчынка»). Вядома, паэт не абмяжоўваецца гатовымі тропамі, а знаходзіць арыгінальнае вобразнае выказванне: *Ручкі — хто зраўняўся з імі! // **Так і шчасце не абыме...***

У духу народнай моватворчасці — выражэнне прыкметы прадмета з дапамогаю прыдатка. Сярод такіх азначэнняў-прыдаткаў шмат індывідуальна-аўтарскіх: *асіна-**ласуха, брахунец**-адвакат, ногі-**мімаходы, сяміцвет**-вясёлка, сена-**прынада.***

Як працяг фальклорных традыцый трэба разглядаць кароткія і ўсечаныя формы прыметнікаў: *Не дружы з панамі, // **Бедзен** мужычок. // На дружбу з багатым // **Вузак** твой шнурок* («Не дружы...»); *Мала помню **родну** хатку, // А ўсё ж міла ўспамінаю* («Калека»); ***Крэпкі, магутны** аковы зімовыя...* («Паводка»). Падкрэслім, што поўныя прыметнікі ў вершаванай мове Я. Купалы пераважаюць, а ў празаічнай з'яўляюцца адзінымі.

Звяртаюць на сябе ўвагу дзеясловы неазначальнай формы з суфіксам *-ці* пасля галоснага *(даці, жыці, мураваці, пазнаці, спаці): Чым з табою піць, **гуляці,** // Ночкі **каратаці,—** // Лепш навекі косці парыць // У зямельцы-маці!* («Бандароўна»). Такія формы павялічваюць колькасць адкрытых складоў, павышаюць мілагучнасць мовы. Яны прыйшлі ў купалаўскі верш з народных песень і ўжываюцца як традыцыйны сродак паэзіі. У гаворцы Купалавых землякоў згаданыя дзеясловы маюць форму *даць, жыць, спаць* і г. д. І ў мове персанажаў драматычных твораў — таксама: [Паўлінка:] *Ну, ужо зусім няма як без агню **шыць!** Зараз трэба **запаліць** лямпу* («Паўлінка»).

Нацыянальную спецыфіку мовы Купалы ў значнай меры выражае фразеалогія. У ягоных вершах, паэмах, п'есах вельмі часта сустракаем фразеалагізмы, а таксама прыказкі і прымаўкі. Устойлівыя выразы надаюць мастацкай мове каларыт жывой гаворкі, узмацняюць вобразнасць і эмацыянальнасць: ***Вераб'ю па калена,** што сею, расце; ... Зося **парыць зямлю, у свет** дзеці **пайшлі*** («Гэта крык, што жыве Беларусь»). Нярэдка паэт трансфармуе фразеалагізмы — замяняе або дадае словы: ***З балотам мяшалі,** пагардай плявалі // Усе тыя, што выраслі нават са мной* («Ужо днее»); *Убег у хату, **дух не змене...*** («Страх»); *Сват гэтага толькі не цяміць нічога: // Яму ўсюды **проста, як з моста** дарога* («Сват»). Выдзеленым фразеалагізмам у літаратурнай мове адпавядаюць *мяшаць з гразёю (з зямлёю), перавесці дух (дыханне), проста з моста.*

Некаторыя фразеалагізмы зменены гэтак, што пазнаюцца толькі іх элементы: *Леснiковая дасціпнасць // **Косткай** усім стала* («За чужую ёлку»); *Жыву з суседзьмі па-суседску,— // Пакорны згоды я слуга; // Не быць нікому ў воку **рэдзькай** // Я век стараюсь як **мага*** («Мой пагляд і мэта»). У прыведзеных сказах — рэшткі агульнамоўных фразеалагізмаў: *як костка ў горле, як горкая рэдзька.* Падкрэслім грань майстэрства Купалы: фразеалагізмы ў яго, як правіла, не паўтараюцца. Паводле звестак І. Лепешава, з 143 фразеалагізмаў у камедыі «Паўлінка» 128 ужыты па разу, 15 фразеалагізмаў паўтараюцца, але ўсе паўторы мастацка апраўданыя.

Багаты і выразны купалаўскі сінтаксіс, спецыфічныя для беларускай мовы словазлучэнні і сказы, некаторыя з якіх звузілі сферу літаратурнага ўжытку. Як ілюстрацыі прывядзем словазлучэнні з прыназоўнікамі *з, па,* у якіх выражаюцца адпаведна прычынныя і часавыя адносіны: ***Загіне з выстралу** каршун* («З песень аб вясне»); *Вось **з наказу** раз **пайшоў** я // Вартаваць у лес павалы* («Калека»); *Нішто жыць не мож а векі — // **З** сваёй, з божай нікне **волі*** («Сцёпка Жук»); *Спіць вёска сном моцным **па працы** па цяжкай* («Адплата кахання»); *Марная ўрода **па** ўсякай **сяўбе*** («Вёска»).

Трэба мець на ўвазе, што словазлучэнні і сказы, якія сёння могуць успрымацца як асаблівасць сінтаксісу Я. Купалы, у той час, калі пісаліся яго творы, былі пашыраныя ў жывой мове народа. Так, рэгулярна ўжывае Купала састаўны іменны выказнік, выражаны назоўнікам у творным склоне без звязак *ёсць, з'яўляецца: Хто смяецца са слёз — сам **прычынай** тых слёз* («Дзе б і праўда жыла...»); *У вёсцы у роднай ён добрым **суседам*** («Адплата кахання»); *Ад прадзедаў спакон вякоў // Мне засталася спадчына; // Паміж сваіх і чужакоў // Яна мне **ласкай** матчынай* («Спадчына»).

Глыбокая народнасць купалаўскіх твораў выяўляецца не толькі ў скарыстанні жывой народнай мовы і паэтычных сродкаў фальклору. У аснове шмат якіх вершаў і паэм ляжаць народныя ўяўленні, народная мараль, звычаі, гістарычная памяць пакаленняў. Гэтыя кампаненты нацыянальнай духоўнай спадчыны не проста ўзнаўляюцца паэтам, а служаць задачы эстэтычнага асваення

рэчаіснасці, што ў сваю чаргу патрабуе адпаведнай арганізацыі мастацкага кантэксту. Так, у вершы «Дужыя і слабыя» вобразна высноўваецца думка, што ганаровае месца за сталом — не проста ад звычаю паважаць госця. Гэта прадыктаванае жыццём права багатага на вяршэнства: *На балі жыцця шумнага // Не ўсім адзін абед,— // Для дужага і слабага // Не аднолькоў прывет. // Сядзіць дужы з павагаю // За бесядным сталом, // На куце ён пасаджаны // Жыццём-гаспадаром.* На першы погляд ледзь прыкметнае дапаўненне слоў *баль* («баль жыцця») і *гаспадар* («жыццём-гаспадаром») памацняе сацыяльнае гучанне радкоў.

Не змяншаючы ролі аўтарскай моватворчасці, трэба з усёю пэўнасцю сказаць, што арыгінальнасць вобразнага выказвання дасягаецца галоўным чынам за кошт актывізацыі стылістычнага патэнцыялу агульнанароднай лексікі і фразеалогіі. Вось некалькі прыкладаў. *Акавала сонца праўды // Няпраўды зіма* («Па жыццёвай пуцявіне»). Метафарычнаму, эмацыянальнаму гучанню радкоў садзейнічае ўжыванне назоўнікаў-антонімаў *(сонца — зіма, праўда — няпраўда)*. Пры стварэнні паэтычнага вобраза нярэдка спалучаецца лексіка абстрактная з канкрэтна-бытавой: ***Душу напасціць*** *перад скончынаю // Дайце шчаслівасці новай!* («Дайце мне...»); *Эх, кіньце **крыўдамі карміцца,**— // Кожны народ сам сабе пан* («Ворагам беларушчыны»); *Як людзі добрыя, **навукі** // Я з малку дзён **пакаштаваў*** («Мой пагляд і мэта»); ***Няпраўда праўду акялзала** // І едзе людскасці на спіне* («Разлад»); *А мы сабе **сеем і сеем** // Пшаніцу, і **радасць,** і кветкі* («А мы сабе сеем і сеем...»); ***Шчасце*** *так рэдка над светам **усходзе*** («Я не паэта»).

Плённа карыстаючыся з мастацкамаўленчых здабыткаў беларускага народа, Купала стварае непаўторныя паэтычныя кантэксты. Нетрадыцыйнасць выказвання часам вымагае адметных слоў і формаў: *Яшчэ вокал цемната // Над светам пануе,— **Яшчэ міласць, дабрата** // **Людзей на раўнуе...*** («Люлі, люлі, мужычок!»); *Без яго ёй не жыці, // А яму без яе, // **Думка ў думку злажыці** // **Так умелі свае*** («Ён і яна»); *Глянь во з жалем — я калека, // Аднарукі, аднаногі, // **Беспрытульнасці апека** // **Ацямніла** ўсе дарогі* («Калека»); *І выйшлі людзі сільныя // На бітву на крывавую, // **Дый смерцяю акрыліся,** // Хоць несмяротнай славаю* («Я відзеў душы сільныя»); *Ці помніш ты, **нядбалы дружа,** // Усё тое, дзе радзіўся, ўзрос?* («Брату ў чужыне»). Зварот *нядбалы дружа*, які на момант можа здацца «неэтычным», у вершы мастацка матываваны: паэт і любіць, і дакарае свайго героя. Дакарае, бо хоча, каб той стаў лепшы, болей свядомы, каб вярнуўся да родных гоняў.

У сістэме моўна-выяўленчых сродкаў Я. Купалы значнае месца займаюць перыфразы, у якіх адбілася індывідуальнае бачанне свету, спецыфіка мастацкага мыслення. Звычайна кажуць: *дні мінулі (прайшлі)*. Купала перадае гэты сэнс вобразна, эмацыянальна: *Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі — // Удзірванелы курган векавечны* («Курган»). Тут перыфраза — *у нябыт уцяклі.*

Галоўны герой — беларускі селянін — не перастае захапляць паэта сілаю, цярплівасцю і адначасова засмучаць сваім бяспраўным, прыгнечаным становішчам. Гэтыя асноўныя матывы і вызначаюць змест Купалавых перыфраз — характарыстычных назваў селяніна: *царскі нявольнік; панскі нявольнік; дзіця нядолі, цемнаты; сын нядолі; гаротны брат; доляй убогі; брат замучаны мой; нявольнік з краю нядолі; брат слёзнавокі; бедачок сярмяжны; сын бяды і працы; цёмны і галодны брат; ахвяра трудоў, беднаты, цемнаты; пан сахі і касы; пан сошкі, і коскі, і поля.*

Дзякуючы глыбокаму сэнсава-эмацыянальнаму напаўненню і дасканаласці формы, шмат якія выразы з твораў Я. Купалы сталі крылатымі: *А хто там ідзе, а хто там ідзе; воля сонейку раўня; не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі; паднясць скібіну слова; пан сахі і касы; слова, дум ніхто не звяжа; людзьмі звацца.*

У стварэнні мастацкага тэксту важную ролю адыгрываюць сінонімы. Характэрна, што літаратурныя словы ўступаюць у сінанімічныя адносіны з дыялектнымі, а таксама з індывідуальна-аўтарскімі ўжываннямі (словамі і зваротамі): *дужа, надта* («Песенька для некаторых маладых людзей»); *прыгожы, пекны* («Прыпеўка»), *пявун, певень* («Каршун»), *рыдлёўка, землякопніца* («Грабар»), *скрыпка, струнніца, скрыпуля, святая здабыча* («Забытая скрыпка»), *дзевачкі, любанькі, сонейкі, галубанькі, сонейкідзевачкі, любачкі, любка, ненаглядачка, дзевачкі-галубачкі* («Да дзяўчатак»).

Самабытнасць мовы Купалы выявілася ў багатай словатворчасці паэта. Не заўсёды можна вызначыць, што перад намі: аўтарскі наватвор ці слова з жывой народнай гутаркі або з гістарычных ці іншых крыніц. І ўсё ж ёсць падставы аднесці да «купалавых» такія, напрыклад, словы, як *азярняціць, аквечаны, ацямраць, жыйчы, мглавіца, невыдумны, неразвейны, няпамяць, павейны, разгуканы, усешчаслівасць, цемравіца.* Такія паэтычныя словы не падаюцца слоўнікамі літаратурнай мовы. Гэта пэўнае сведчанне, што яны не выйшлі за межы твораў паэта. Чаму ж тады звычайна падкрэсліваюць значэнне Купалавай моватворчасці ў літаратурным працэсе? Па-першае, дзякуючы ёй дасягнута адэкватнае эстэтычнае самавыяўленне паэта, па-другое, Купала даў узор іншым пісьменнікам, як карыстацца роднай мовай з найбольшым мастацкім эфектам.

Шматлікія адметныя словы і словаформы з'явіліся ў выніку «выраўноўвання» слова на адпаведную рыфму: *Праўду з няпраўдай, // Цноту з **гарэзіяй** // Вымешай спрытам,— // Будзе паэзія* («Паэзія»); *Спі ў вечнай, сіротка, **хатулі,** // Дзе тата спіць твой і матуля* («З сіроцкай долі»); *Шмат зямлі на свеце, // Шмат на свеце хатак,— // Толькі беззямельных // Мінуў гэты **датак...*** («З песень беззямельнага»); *Жыве гэта песня, як віхар клакоча, // Над лесам магілішч, над цьмою бяжыць, // Зрывае запоры і брамы **ламоча,** // І крыўда нямее, і змога дрыжыць* («Памяці Т. Шаўчэнкі»). Як бачым, аказіяналізмы *гарэзія, хатуля, датак, ламоча* выкліканы да жыцця ў вершах сугучнымі словамі *паэзія, матуля* і г. д.

Вымогамі гукавой арганізацыі паэтычнага радка, будовай страфы абумоўлена, з аднаго боку, падаўжэнне, расцягванне слова, з другога — усячэнне, падкарочванне. Пры нарматыўнай форме назоўнікаў *пеўня, лапці, жорны* ў творах Купалы сустракаем *певеня, лапаці, жораны: Як віхар, як куля імчыцца каршун // І **певеня** тут жа насмерць забівае* («Каршун»); *Цягай ты зрэбную кашулю, // Цягай ты **лапаці** з лазы* («Куды ты рвешся!..»); *Чакаюць стравы **жораны** — // Зярнятаў незамораных* («Безназоўнае»).

Падаўжэнне слова часта дасягаецца выкарыстаннем іншых суфіксаў: *За правіненне // Розгамі секлі* («Даўней і цяпер»); *Пахаваў, насып даў **небарачніку,**— // Бач, другі ўжо расстаўся з душой* («Грабар»); ***Аздобнасць*** *неба — сонца, зоры, // Спавіты месяц туманом* («Брату ў чужыне»); *Як гляну я, гляну ў свет зрэнкай **хмурліваю*** («Доля ўдавы»); ***Адвечністым*** *шумам [хвалі] калышуць прастор* («Над Іматрай»).

Часты зварот паэта да памяці продкаў, паказ духоўнай повязі пакаленняў, натуральна, запатрабавалі шырокага ўжывання слоў і сінтаксічных канструкцый, якія здаўна бытавалі ў беларускай мове. Збліжэнню цяперашняга плана з мінулым садзейнічае наданне словам формы, якая імітуе іх колішняе марфалагічнае аблічча — словы як бы пазбаўляюцца пазнейшых структурных і семантычных прырашчэнняў, аднаўляюць сваю першапачатковую будову і гучанне: *ваб, дзіў, лек, мус, нізь, падмур, світ, узгор.*

Павялічыць сэнсавую і эмацыянальную важкасць слова дапамагае змена формы ліку. Абстрактныя назоўнікі, якія ў беларускай мове звычайна маюць форму адзіночнага ліку, у Купалавых вершах нярэдка выступаюць у множным ліку: *Бяссмертнае*

*слова, ты, роднае слова! // Ты крыўды,* ***няпраўды*** *змагло* («Роднае слова»); ... *Каб чорныя* ***долі*** *з мяцеліцаў шумамі // Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй* («Мая малітва»); *Праўда, пойны* ***сумаў*** *весці // Буйны вецер нам прыносіць* («Хай жа вам так не здаецца»); *Дзіўна вам, што часам з* ***нудаў*** *// Заглядаю у карчомку...* («Калека»).

Асаблівасць купалаўскай мовы — назоўнікі жаночага роду з суфіксамі *-ін*, якія ідуць з мясцовых гаворак: *гурбіна, дзяніна, дравіна, жывіна, жыліна, кабыліна, магіліна, сасніна, скібіна, слязіна, яміна.*

У шэрагу марфалагічных адметнасцей мовы Купалы звяртаюць на сябе ўвагу склонавыя формы назоўнікаў. Так, назоўнікі жаночага роду III скланення ў творным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак *-ай(-яй): ночай, радасцяй, Беларусяй: Лісцікі* ***зеленяй*** *хваляцца // Небу панятлівай мовай* («Явар і каліна»). Такія ўжыванні адлюстроўваюць нормы беларускай літаратурнай мовы да рэформы правапісу 1933 года.

Лексічная і марфалагічная варыянтнасць, якая назіраецца ў творах Купалы,— гэта ў вялікай ступені паказчык неўсталяванасці літаратурнай мовы. Трэба ўлічваць і тое, што ў беларускай мове адбыліся змены. Аднак вельмі важна, што такое багацце і разнастайнасць моўных адзінак зафіксаваны ў самай аўтарытэтнай крыніцы — творах Купалы, адкуль патрэбны моўны сродак можа быць узяты, калі на яго з'явіцца попыт. Так, напрыклад, Купала ўжывае формы дзеяслова тыпу *гадаваны, калыханы* са значэннем залежных дзеепрыметнікаў цяперашняга часу: ***Калыханы*** *ветрамі // Дый на ўсе староны, // Стогне дуб...* («Дуб»); *Доляй* ***мучаны*** *паганай, // След слязой пачнеш крывавіць* («Крыжы»). Такое ўжыванне дзеепрыметнікаў — не толькі стылёвая рыса Купалавых твораў, але і натуральная ўласцівасць беларускай мовы. Гэтыя формы маюць перспектыву пашырэння ў літаратурнай мове.

Стылістычны дыяпазон Купалавай мовы шырокі. Ужо згадвалася глыбокая эмацыянальнасць, што ідзе ад прыроды таленту паэта, улюбёнага ў родны край, у чалавека працы, ад жывой гаворкі народа і фальклору — урадлівай глебы, на якой прарасло і расквітнела паэтава слова: *Я грудзямі прыльну к* ***сенажатцы,*** *// Маліць стану даваць больш* ***сяңца*** («Як пайду я, пайду...»); *Прыйшла зіма халодная,— //* ***Нягодная*** *зіма,— // Цярпі,* ***зямелька родная,*** *// Няма жыцця, няма* («Зіма»); *Ці вас* [*думкі-весялушкі*] *выараў сахою // На шнуры* ***вузенькім?*** *// Ці вас выкасіў касою // На сіўцы* ***сівенькім?*** («Да сваіх думак»).

Асаблівую эмацыянальнасць і выразнасць паэтычнаму твору надае нанізванне памяншальна-ласкальнай формы: *Натачы,* ***кавалёк,*** *// Вострым-востра* ***сярпок,*** *// Адпусці, назубі, загартуй; // І* ***ляшчынкі*** *кусок // Адпілуй,* ***кавалёк...*** («Зажынкі»). У вершы ўжыты шэраг аднатыпных формаў, якія рыфмуюцца: *шнурок, каласок, грамок, дажджок, хлябок, снапок, крыжок, бедачок, тачок.* Дзякуючы канцэнтрацыі назоўнікаў з памяншальна-ласкальным суфіксам *-ок(-ёк)*, ствараецца мастацкі кантэкст светлай, аптымістычнай танальнасці, перадаецца настрой нецярплівага чакання жніва, пачуццё любасці да зямлі-маткі, непарыўнай сувязі чалавека працы з навакольным светам.

Паэт настолькі зацікаўлены лёсам героя, спачувае яму, што не можа стрымацца, каб не звярнуцца да яго з добрым словам, радай: *Ой, няшчасна Бандароўна, // Адпачні часіну, // Памаліся за сябе ты, // За сваю Украіну! // На сырой прыляж зямельцы; // Атуліся касою, // Няхай сэрцайка дзявоча // Прыйдзе да спакою* («Бандароўна»).

Часта верш Купалы нагадвае даверлівую, шчырую гутарку паэта з героем — селянінам: *Эй, скажы, мужычок, // Дзе ты долю падзеў? — // Ці ўтапіў ў ручаёк, // Ці прапіў, ці праеў?* («Эй, скажы, мужычок!..»).

Ужо першыя паэтычныя творы Я. Купалы маюць выразна публіцыстычнае гучанне. Лаканічнымі, амаль лозунгавымі фразамі беларускі селянін прамаўляе: *І кожны, хто мяне спытае, // Пачуе толькі адзін крык: // Што хоць мной кожны пагарджае, // Я буду жыць! — бо я мужык!* («Мужык»).

Поклічнае, мужнае і адначасова шчырае, адкрытае слова паэта было з народам на ўсіх гістарычных паваротах. У вершы «Касцам» (1908) Купала гукаў-клікаў: *Дзе вы, брацці-ўдальцы, дзе вы хлопцы-касцы? // Гэй, дакуль на вас трэба чакаць? // Час вам косы кляпаць, час вам на сенажаць, // Час вам сілу сваю паказаць!*

Не страціла сваёй палымянасці і вастрыні Купалава слова і ў гады жыццёвай сталасці паэта. Успомнім славутыя радкі: *Партызаны, партызаны, // Беларускія сыны! // За няволю, за кайданы // Рэжце гітлерцаў паганых, // Каб не ўскрэслі век яны* («Беларускім партызанам»).

У шмат якіх творах Купалава слова гучыць прыўзнята-ўрачыста, эпічна шырока і раскоцiста: *Паміж пустак, балот беларускай зямлі, // На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай, // Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,— // Удзірванелы курган векавечны* («Курган»).

Паэзіі Купалы, падкрэслім яшчэ раз, уласцівы глыбокі лірызм: *Шумныя бярозы // Пабяліў мароз. // Хацеў бы я плакаць, // Дый не маю слёз* («З песень нядолі»); *Песняй вясны лебядзінаю, // Скінуўшы зімнія чары, // Шэпчуцца явар з калінаю // У сумнай даліне над ярам* («Явар і каліна»).

Творчая манера Купалы грунтуецца на цесным спалучэнні рэалізму (абмалёўка побыту, характараў, што ажыццяўляецца пераважна сродкамі жывой гутаркі і фальклору) і рамантызму (паказ «незвычайных» герояў, бязмежнага палёту думкі, фантазіі, мары; тут значную ролю адыгрывае індывідуальная моватворчасць паэта).

Пры вырашэнні мастацкіх задач Я. Купала не абыходзіцца без слоў, фразеалагізмаў, сінтаксічных канструкцый кніжнай мовы: *Для беларускіх грамадзян байцом, слугой // Так шчырым быў, а грамадзяне — // Эх! ніткаю к пятлі плацілі не адной* («Памяці С. Палуяна»); *Сцежку хутчэй ідэалам!.. // Квецься, палай, харяство! // Куйся, зарнічная хвала, // Вечная радасць, дабро!* («Жальцеся, грайкія струны...»).

Новае, што ўзнікае ў мове народа, заканамерна адлюстроўваецца ў творах Я. Купалы. Пры гэтым не слабее апора на паэтыку фальклору і рэсурсы жывой народнай мовы. Як ідзе мастацкае асэнсаванне новай рэчаіснасці з дапамогай традыцыйных сродкаў, можна бачыць у вершах «Алеся», «Лён», «Я – калгасніца...», «Дзве дзяўчыны» і інш. З апошняга твора прачытаем страфу: *Інжынер — тая другая, //* ***Будаваць машыны знае,*** *// Аб ёй слава па ўсім краі: // Што такая маладая, //* ***А машыны выдумляе!..*** У аснове першага выдзеленага выразу ляжыць народны зварот *знацца на чым-небудзь.* Параўнайце: *Знацца лепш ніхто не можа // На раллі, на сенажаці* («Сцёпка Жук»). Другі выраз — таксама з жывой народнай гаворкі.

Галоўную лінію ў мастацка-маўленчай дзейнасці Я. Купалы трапна акрэслівае выказванне Кузьмы Чорнага: «Творачы сваё паэтычнае слова з мовы народнай, паэт узводзіў родную мову ў новую якасць мовы літаратурнай. Збіраючы моўны скарб, паэт нават самыя «этнаграфічныя» і «мясцовыя» элементы яго ператвараў у новае гучанне» (Чорны К. Зб. тв. Т. 6. С. 337).

*Літ.*: Глебка П. Аб мове Янкі Купалы // ЛіМ. 1946. 10 жн.; Бярозкін Р. С. Свет Купалы; Звенні. Мн., 1981; Гілевіч Н. С. Валадар роднага слова: (Заўвагі аб паэтычнай мове твораў Я. Купалы) // Народныя песняры. Мн., 1972; Ванковіч Л. А. Некаторыя назіранні над слоўнікам купалаўскай «Жалейкі» // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1964, № 1; Купалава і Коласава слова: Зб. арт. Мн., 1981; Шакун Л. М. Роля Я. Купалы ў развіцці беларускай літаратурнай мовы // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1982. № 3; Садоўскі П. В. Мова твораў Янкі Купалы // Янка Купала: Энцыкл. даведнік. Мн., 1986.

*А. А. Каўрус.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скарапіс 15 ст.

Скарапіс 16 ст.

Скарапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Ільняная і жытнёвая.*
*Сялянская.*
*Баравая ў казачнай красе.*
*Старажытнейшая, самая*
*Славянская,*
*Светлая, як травы у расе.*
*Вобразная, вольная, пявучая*
*Мова беларуская мая!*

Пімен Панчанка



**Л** — *трынаццатая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Л («людзі»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай λ («ламбда»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* л, л' (ласка, листъ, льстити). *Мела таксама лічбавае значэнне «трыццаць». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваццa як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае санорныя змычна-праходныя пярэднеязычныя зычныя гукі* л, л' (золак, ліловы — *«л'іловы»*, суцэльны — *«суцэл'ны»*). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ЛТЗ), як умоўнае скарачэнне слова літр (25 л). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дванаццаты» (група «Л»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (квадрат № 6л).* *А. М. Булыка.*

## ЛАД ДЗЕЯСЛОВА

Лад дзеяслова паказвае, адпавядае ці не адпавядае рэальнасці дзеянне з пункту гледжання таго, хто гаворыць. Дзеянне можа ўяўляцца асобе, якая гаворыць, як рэальны факт; асоба можа патрабаваць ад каго-небудзь выканаць пэўнае дзеянне; нарэшце, асоба можа гаварыць пра дзеянне, якое не адбылося, а толькі можа адбыцца пры пэўных умовах, пра дзеянне, якое мяркуецца ці пажаданае. У адпаведнасці з гэтым вылучаюцца тры формы ладу: абвесны, загадны і ўмоўны.

Форма абвеснага ладу выражае рэальнае дзеянне: асоба, якая гаворыць, сцвярджае або адмаўляе наяўнасць дзеяння ў цяперашнім, прошлым ці будучым часе. Напрыклад: *І **ўспаміналася** Станіславу. Ноч самотная, аплыўшая свечка, цягнік **стаіць** на маленькай станцыі. Станіславу не **спіцца.** Ён **падыходзіць** да акна* (Б. Мікуліч); *Вясна **прыйдзе**, снег **пагіне*** (Я. Колас); ***Сумаваць*** і ***каяцца** не **будзеце, запэўніваю** вас* (Т. Хадкевіч). Спецыяльных сродкаў выражэння граматычнае значэнне абвеснага ладу ў беларускай марфалогіі не мае. Гэта асаблівасць дазваляе формам абвеснага ладу ў кантэксце выражаць розныя мадальныя адценні: пажадання, рашучасці або гатоўнасці выканаць дзеянне, магчымасці або немагчымасці ўтвараць дзеянне. Так, у спалучэнні з часціцамі *нібы, быццам* дзеясловы абвеснага ладу выражаюць сумненне або няпэўнасць: *Ты і дапамагаеш, ты і **быццам радуешся,** што мы адстаём* (І. Шамякін); у спалучэнні з часціцамі *бадай, хай, няхай, давай, давайце* — пажаданне, запрашэнне: *«Мартын! а **бадай** ты **сказіўся?** — радасна азваўся дзед Талаш* (Я. Колас); ***Няхай зазвоняць** пушчы зброяй, **хай зашумяць** агнём лясы* (П. Глебка); ***Давай** з табой **паслухаем,** як гай спявае песню нам на мове звыклай* (П. Панчанка). Кантэкст або пазамоўная сітуацыя дазваляюць ужываць формы абвеснага ладу са значэннем загаднага ці ўмоўнага. Загад гаварыць можна перадаць сказам: ***Загаворыш** ты нарэшце, ці так і будзеш маўчаць, як вады ў рот набраўшы?!* Значэнне ўмоўнасці яскрава адчуваецца ў сказе: *Добра **папросіш,** тады аддам.* Такім чынам, форма абвеснага ладу з'яўляецца тым фонам, на якім, як гаварыў акад. В. У. Вінаградаў, успрымаюцца і ацэньваюцца розныя мадальныя значэнні форм дзеяслова.

Форма загаднага ладу (імператыў) паказвае на тое, што дзеянне павінна ажыццявіцца кім-небудзь у выніку парады, прапановы, патрабавання, катэгарычнай просьбы ці загаду: ***Глядзі,** дачушка, **разглядайся,** каб пасля не каялася* (К. Крапіва); *«**Уставай,** сынок»,— гаворыць жанчына* (К. Чорны); ***«Сядзь,*** *— сказаў Амбражэвіч.—* ***Адпачні»*** (Р. Мурашка); *Сам пушчы панскія **сячы, будуй** дамы і грэблі!* (А. Куляшоў). Пабуджэнне да дзеяння можа быць накіравана не толькі да асобы, але і да неадушаўлёных прадметаў, з'яў ці паняццяў, якія ўяўляюцца як адушаўлёныя: *Сцяной высокай **падымайся,** бор, **паблытай,** ночка, сцежкі і сляды і **пагасі** праменне ясных зор* (М. Танк). Ужыванне загаднага ладу звычайна адбываецца ў сітуацыі дыялогу, цесна звязана са зваротками і абмяжоўваецца толькі асобай, якая гаворыць, і яе субяседнікам. Трэцяя асоба ў гэтай сітуацыі немагчыма; нельга гаварыць і пра першую асобу адзіночнага ліку: загадваць самому сабе можна толькі тады, калі ўявіш сябе на месцы свайго субяседніка. Адсюль вынікае, што імператыў мае формы 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку, а таксама 1-й асобы множнага ліку (так званай сумеснай асобы, гэта значыць 'я і ўсе астатнія з групы, у якую ўваходжу і я'). Форма множнага ліку імператыва абазначае, што аб'ектаў заўсёды больш, чым адзін, а форма адзіночнага ліку ўказання на колькасць асоб не змяшчае. Адзіночны лік можа паказваць як на адзін аб'ект, на адну асобу, да якой звяртаюцца *(Ваня, прынясі вады)*, так і на некалькі аб'ектаў, на некалькі асоб *(Ану, хлопцы, стройся ў шарэнгу!)*. Граматычнымі сродкамі выражэння імператыва служаць суфіксы і загадная інтанацыя. Другую асобу адзіночнага ліку выражае суфікс *-і(-ы)* або нулявы суфікс *(вярні, гавары, рэж, стой, выкінь, адзень)*. Формы 2-й асобы множнага ліку ўтвараюцца ад форм 2-й асобы адзіночнага ліку з дапамогай канчатка *-це*

*(вярніце, гаварыце, рэжце, стройце, адзеньце)*.

У старой беларускай мове ўсе дзеясловы 2-й асобы адзіночнага ліку мелі ў загадным ладзе суфікс *-і*, аднак у працэсе развіцця мовы суфікс *-і* застаўся толькі пад націскам. Пасля ацвярдзення шыпячых, *р* і *ц* суфіксальнае *-і* стала передавацца гукам [ы]: *кажы, бяры*. У ненаціскным становішчы галосны *-і* страціўся і цяпер усведамляецца як нулявы суфікс: *чытай, сядзь, кінь*. Суфікс *-і(-ы)* застаўся не пад націскам толькі ў тых вытворных дзеясловах, якія маюць прыстаўку *вы-*: яна перацягвае націск на сябе *(вынесці, выплаці, выпішы*; у гэтых дзеясловах без прыстаўкі *вы-* націск быў на суфіксе: *нясі, плаці, пішы*).

У значэнні 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу ўжываюцца формы адпаведнай асобы цяперашняга (або будучага простага) часу абвеснага ладу: *бяжым, устанем, напішам*. Ад дзеяслова *ісці* існуе і спецыфічная форма імператыва — *хадзём*. Спецыфічна загаднымі з'яўляюцца і гутарковыя формы з постфіксам *-ма* (гэты постфікс далучаецца толькі да тых імператыўных форм 2-й асобы адзіночнага ліку, якія маюць нулявы суфікс: *кіньма, гляньма, хаваймася, спяшаймася*).

Адрываючыся ад дзеяслоўнай парадыгмы, асобныя формы імператыва могуць пераходзіць у выклічнікі *(бывай, бывайце)*, у мадальныя словы *(далібог)*, у часціцы *(хай, няхай, дай, давай, давайце)*. Калі адсутнічае сітуацыя дыялогу, формы імператыва трацяць значэнне загаднасці: яны выражаюць значэнне пажадання *(не дай бог, барані божа)*, значэнне дзеяння, навязанага суб'екту супраць яго волі *(усе дайно разышліся, а я сядзі тут адзін)*, або дзеяння, якое наогул не залежыць ад волі гаворачай асобы *(адкуль ні вазьміся — наляцела цэлая зграя)*. Ва ўмоўных і ўступальных сказах такія формы набываюць адпаведна ўмоўнае ці ўступальнае значэнне: *Прысніліся стэпы, кавыль у расе;* ***устань*** *— і дахаты Дняпро данясе* (А. Вялюгін); *Ананімцы не верацы! Нават сотнямі чутак падкутую не прымаюць да ўвагі, куды ты яе ні* ***пашлі*** (Н. Гілевіч).

Форма ў м о ў н а г а ладу ўказвае на тое, што дзеянне ўяўляецца як магчымае, мяркуемае ці пажаданае: *Ён і сам не ведаў бы, што сказаць, каб яго спыталі, каму ён тут спачувае* (К. Чорны); *Каб мелі — зорамі яны асыпалі б святліцы, блакітам лета і вясны пакрылі б камяніцы* (П. Глебка); *Ты, стары, зубоў не загаворвай, а вось згатаваў бы яечню, а то паставіў на стол чорт ведае што* (М. Лынькоў). У апошнім сказе форма ўмоўнага ладу *згатаваў бы* мае значэнне, блізкае да імператыўнага. Умоўны лад не мае формы часу і асобы, але мае формы трох родаў.

Сродкам выражэння граматычнага значэння ўмоўнага ладу з'яўляецца форма дзеяслова, аманімічная форме прошлага часу, у спалучэнні з часціцай *бы(б)* або ў канструкцыях са злучнікам *каб*. Сінтаксічныя сродкі [часціцы *бы(б)*, злучнік *каб*], якія пераводзяць канструкцыю з дзеясловам у іншы мадальны план — у план ірэальнасці, характэрны для ўмоўнага ладу. Гэтыя сінтаксічныя сродкі не прымацаваны да формы дзеяслова, аманімічнага форме прошлага часу, яны могуць ужывацца пры інфінітыве *(Паехаць бы ў лес! Эх, каб знайсці яго!)*, пры іншых часцінах мовы, якія маюць значэнне семантычнага прэдыката ў розных тыпах сказаў *(Нашых бы хлопцаў у вёску!; Мне б Сяргея сюды!; Эх, каб не ты! Каб не гэтая летняя раніца!)*

*Літ.*: Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Ж у р а ў с к і А. І. Гісторыя форм загаднага ладу ў беларускай мове // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 4; Я н к о ў с к і Ф. М. Гістарычная граматыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1989; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; Ш у б а П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## ЛАСТОЎСКІ ВАЦЛАЎ ЮСТЫНАВІЧ



Беларускі гісторык, мовазнавец, пісьменнік, публіцыст, літаратуразнавец, выдавец, грамадска-палітычны дзеяч В. Ю. Ластоўскі нарадзіўся 1 лістапада 1883 г. ў засценку Калеснікі Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер Міёрскі раён Віцебскай вобласці) у сям'і дробных арандатараў-земляробаў. Скончыў Пагосцкую пачатковую школу, вучыўся ў Дзісенскім павятовым вучылішчы, слухаў лекцыі ў Пецярбургскім універсітэце. З 1902 г. займаўся палітычнай і грамадска-культурнай дзейнасцю. У 1909—14 гг. сакратар газеты «Наша ніва», у 1916—17 гг. рэдактар газеты «Гоман», з 1918 г. сакратар Беларускага навуковага таварыства. З 14.12.1919 г. Старшыня Рады Народных Міністраў БНР. У 1920 г. эміграваў з урадам БНР у Коўна, у 1923 г. адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці. З 1923 да 1927 года выдаваў літаратурна-навуковы часопіс «Крывіч». Па запрашэнні Інбелкульта прыняў удзел у працы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (1926). Тады ж атрымаў ад кіраўнікоў БССР прапанову пераехаць у Мінск. З 1927 г. дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея, неадменны сакратар Інбелкульта, правадзейны сябра ІБК на кафедры этнаграфіі. 26.12.1928 г. В. Ластоўскі быў зацверджаны правадзейным членам Беларускай акадэміі навук. Удзельнічаў у працы Правапіснай камісіі Інстытута мовазнаўства. 16.10. 1929 г. звольнены з пасады неадменнага сакратара, увесну 1930 г. па сфабрыкаваным абвінавачанні арыштаваны, 6.12.1930 г. пазбаўлены звання акадэміка, а ў 1931 г. высланы ў г. Саратаў. Працаваў ва універсітэцкай бібліятэцы загадчыкам аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў. У 1937 г. зноў арыштаваны і 23.1.1938 г. засуджаны на смерць Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Часткова рэабілітаваны ў 1958 г., цалкам — у 1988 г., 17.5.1990 г. адноўлены ў званні акадэміка.

Сталенне В. Ластоўскага як даследчыка мовы прыпала на часы ўздыму беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку 20 ст. Ён быў адным з ідэолагаў нацыянальнага рамантызму — ідэйнай плыні беларускага адраджэння, якая выразна выявілася ў мастацкай і навуковай творчасці К. Каганца, Я. Купалы, М. Багдановіча, З. Бядулі, Я. Станкевіча, Я. Драздовіча, У. Жылкі. У мовазнаўстве нацыянальны рамантызм зазначыўся праявамі моўнага пурызму — імкненне захаваць нацыянальную індывідуальнасць беларускай мовы, надаць ёй кірунак развіцця, які збярог бы яе ад асіміляцыі з боку генетычна блізкіх моў уплывовых суседзяў, мабілізаваць у моватворчасці ўласнабеларускія моўныя рэсурсы.

В. Ластоўскі пачаў друкавацца з 1909 г. ў «Нашай ніве», дзе змяшчаў мастацкія творы і навукова-папулярныя артыкулы па этнаграфіі, гісторыі, фальклярыстыцы. Першая навуковая манаграфія даследчыка — «Кароткая гісторыя Беларусі» (Вільня, 1910) — мае раздзелы, прысвечаныя гісторыі пісьменства. У артыкулах закранаў праблемы паходжання беларускай мовы, яе самабытнасці, гістарычнага абшару. Межы распаўсюджання беларускай мовы вучоны вызначаў паводле Я. Карскага, але да

гістарычна-моўнага абшару далучаў Пскоўшчыну і Наўгародчыну.

Дзеля забеспячэння беларускіх школ неабходнай літаратурай В. Ластоўскі ўклаў некалькі чытанак і падручнікаў: «Першая чытанка» (1915), «Rodnyje zierniaty» (1916), «Niezabudka», «Siejbit», «Zahadki», «Raścinу», а таксама «Выпісы з беларускае літаратуры» (1918; усе ў Вільні). Чытанкі маюць апарат спасылак — тлумачэнняў лексікі. Стараннямі В. Ластоўскага ў Коўне выйшлі перакладзеныя з рускай мовы падручнікі па астраноміі, біялогіі, анатоміі, батаніцы, сусветнай гісторыі, рыхтаваліся арыгінальныя рукапісы дапаможнікаў па трыганаметрыі, геаметрыі, хіміі, мінералогіі. Іх рэдагаванне вымагала распрацоўкі тэрміналогіі з розных галін ведаў, і В. Ластоўскі заняўся ўкладаннем тэрміналагічных спісаў. Асаблівасці «ковенскай» тэрміналогіі — перавага ўласнабеларусіх тэрмінаў над інтэрнацыяналізмамі ды іншымі запазычаннямі, пазбяганне супадзенняў з рускімі і польскімі адпаведнікамі, выкарыстанне сінанімікі. Напрыклад: *плоский угол — кут, двугранный угол — вугол, многогранный угол — рог.*

Аб'ектам сталых зацікаўленняў В. Ластоўскага былі замкнёныя лексічныя групы: беларускі паганскі пантэон, назвы дзён тыдня, бакоў свету, пальцаў, шахматных фігур і інш. Этымалагічныя экскурсы, спробы рэканструкцыі страчаных лексем наменклатурных груп публікаваліся ў раздзеле «Запіскі» часопіса «Крывіч», але яны раскіданы і па іншых яго працах, нават па мастацкіх творах (навукова-фантастычная аповесць «Лабірынты»). Даследуючы этнагенез беларусаў на матэрыяле мовы, анамастыкі, духоўнай і матэрыяльнай культуры, вучоны прыйшоў да высновы пра неабходнасць укаранення першаснай саманазвы беларусаў *крывічы.* Ластоўскі падзяляў погляды нарманістаў адносна паходжання назвы *Русь* і трактаваў яе як сігнал канфесійнай прыналежнасці. Ужыванне імёнаў *Беларусь, Белая Русь* у дачыненні да нашай зямлі, глатоніма *беларуская мова* лічыў пазнейшымі, прынесенымі звонку. Тэрміны ж *Літва, ліцвіны* абазначалі, на думку Ластоўскага, дзяржаўна-палітычную прыналежнасць.

Грунтоўна займаўся В. Ластоўскі моўна-стылістычным аналізам фальклорнага тэксту, супастаўляльна-тыпалагічным вывучэннем культуры і мовы, даследаваў індаеўрапейскія асновы беларусістыкі. Нямала месца ў «Крывічы» займаюць пытанні палеаграфіі. У часопісе быў надрукаваны «Першы крыўскі (беларускі) слоўнік Лаўрына Кукеля (Зызанія)» (1924, № 2), фрагменты летапісаў і іншых помнікаў пісьменства. Сярод лексікалагічных публікацый вучонага ў «Крывічы» вылучаецца разбор «аднасловаў» — сінанімічных радоў. В. Ластоўскі размежаваў значэнні сінонімаў *ведаць — знаць, цяпер — зараз, усякі — усялякі.* Разглядаючы мову пісьменнікаў (Коласа), перыёдыкі з БССР, паслядоўна выступаў супраць русізмаў і паланізмаў. За гэта, а таксама за няўдалыя наватворы крытыкаваў мінскія слоўнікі.

**В. Ластоўскі. «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (разгорнуты тытул). 1924.**

Плёнам шматгадовай працы ў галіне беларускай лексікалогіі, тэрміналогіі, анамастыкі стаў «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (Коўна, 1924; факсімільнае перавыд., Мінск, 1991; каля 17 тыс. слоўнікавых артыкулаў). Беларускую частку слоўніка склалі матэрыялы, якія Ластоўскі пачаў збіраць яшчэ ў 1902 г., запісваючы «цікавыя» словы, пачутыя ў народзе або знойдзеныя ў кнігах. Адбор лексікі для рускай часткі носіць часам бессістэмны характар і не ўлічвае частотнасці словаўжывання. Слоўнік спалучае рысы перакладнога, тлумачальнага, сінанімічнага, часткова этымалагічнага і энцыклапедычнага (артыкулы *Дом, Пай, Русь* і інш.) слоўнікаў. Значэнне слова ілюструецца прыкладамі з дыялектаў або фальклору. Найважнейшая асаблівасць слоўніка — вялікая колькасць наватвораў, якія Ластоўскі ўводзіў тады, калі пошукі ўласнабеларускай лексікі ў дыялектах і помніках пісьменства не давалі выніку (напрыклад: *гудзьбіт* «музыкант», *кудар* «чародей», *старасхоў* «древлехранилище», *хваласьпеў* «гимн»). Для стварэння слоў вучоны выкарыстоўваў прадуктыўныя словаўтваральныя мадэлі, актывізаваў менш пашыраныя (прэфіксы *с-па-*, суфіксы *-мень, -аць, -в-о, -м-о: спазор* 'вид', *агмень* 'очаг', *цеклаць* 'жидкость', *прыймо* 'принятие', *ручво* 'русло'). Ластоўскі пільна трымаўся прынцыпу, які сфармуляваў у прадмове да слоўніка: «Наша мова тады толькі здолее разьвіцца, калі патрапіць выявіць сваю выразна зарысаваную індывідуальнасьць, а гэтым самым дакажа рацыю свайго істнаваньня і калі патрапіць абараніцца ад асымілюючага ўплыву суседніх грамадных народаў: Расійцаў, Палякаў, Украінцаў. Дзеля гэтага трэба памятаць, што кождае чужое слова, занесенае ў мову, асымілюе, зьлівае мову з суседзкай, забівае яе асобны характар, а таму трэба, асабліва пішучы, высьцярагацца ўжываць сходныя з суседзкімі словы, хоць-бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў, але істнуюць у здаровай нашай народнай стыхіі».

У дадатках да слоўніка змешчаны распрацоўкі вучонага ў галіне арніталагічнай, батанічнай і вайсковай тэрміналогіі, а таксама «Крыўскі (беларускі) іменьнік».

Слоўнік В. Ластоўскага мае выразны індывідуальна-творчы характар і не прэтэндуе на нарматыўнасць.

Лексічныя пошукі даследчыка ў розныя часы ацэньваліся неадназначна, аднак пэўная колькасць адшуканых і створаных ім слоў вытрымала выпрабаванне часам: *носьбіт, памер, нашчадак, пошчак, жыхар, дойлід,*

*злавесны, прадонне, спаборніцтва, святар* і інш.

У 1926 г. ў Коўне В. Ластоўскі выдаў «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі». Як піша аўтар у прадмове, «мэта гэтай кнігі... паказаць, што пісьменнасьць крыўскага народу па сваёй даўнасьці сягае X стагодзьдзя, а па багацтву помнікаў займае першае мейсца на ўсходнай славяншчыне... Праца гэта ёсьць *першая спроба* даць, па-магчымасьці, усестароннае паняцьце аб стара-крыўскай (беларускай) пісьменнасьці, само сабой не прэтэндуючы на поўнае пералічэнне ўсіх захаваўшыхся да нашых часоў пісаных крыўскай мовай помнікаў». «Гісторыя...» спалучае ў сабе анатаваную бібліяграфію, хрэстаматыю тэкстаў і фрагментаў, нарысы гісторыі Беларусі і беларускай літаратуры. Апісаны тысячы помнікаў пісьменства, шмат да якіх даецца гістарычна-культурны каментарый. Ластоўскі ўкладаў кнігу на эміграцыі, адарваны ад першакрыніц, таму ў лінгвістычным плане тэксты маюць найперш пазнавальную вартасць. Каштоўныя ў працы палеаграфічныяназіранні аўтара, ягоныя крытэрыі вызначэння прыналежнасці помнікаў да беларускай літаратуры, размежавання беларускіх і ўкраінскіх помнікаў. Вучоны аспрэчваў тэрмін «славянская актавая» або «старажытнаруская» ў дачыненні да дзяржаўнай мовы Вялікага княства Літоўскага.

Пытаннямі графікі і арфаграфіі новай беларускай літаратурнай мовы В. Ластоўскі зацікавіўся ў 1920-я гады. На Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі 1926 г., дзе вучоны быў выбраны на старшыню Графічнай камісіі, ён выступіў супраць увядзення лацінкі, папаўнення кірыліцы новымі знакамі і за скасаванне літар *й* і *ў*. Ластоўскі прапанаваў замяніць літары *е, ё, ю, я* дыграфамі *іе, іо, іу, іа*, скасаваць дыграф *дз* для абазначэння мяккай афрыкаты, а таксама літару *ь*, якая абазначае асімілятыўную мяккасць *с, з, ц, дз (сьвятло — свіатло)*. Скасаваць асімілятыўны *ь* вучоны лічыў магчымым, паколькі «мякчэньне *з, с, ц* у гэтым здарэньні зьяўляецца фізычнай няўнікнёнасьцю» (і памыляўся, бо недаацаніў уплыву русіфікацыі на ўзроўні графічнага вобраза слова). Ластоўскі выступаў за стварэнне «гістарычна-фанетычнага» правапісу, «у якім-бы адбівалася як гісторыя нашай багатай у старажытнасьці пісьменнасьці, так лексычныя і фонэтычныя асобнасьці крыўскай мовы», дбаў пра пераемнасць са старабеларускай пісьмовай традыцыяй.

У Правапіснай камісіі В. Ластоўскі выступаў за марфалагічнае напісанне зычных *(-шскі, -жскі; разьсяліцца)*, за дысімілятыўнае аканне-яканне *(рэка — ракі, земля — зямлі)*. Відаць, пераканаўшыся ў неабходнасці пазначаць асіміляцыю па мяккасці, вучоны ўключыў у праект беларускага правапісу 1930 г. прапанову абазначаць такую мяккасць дыякрытыкам: *śнег, ćмяна.* Наогул, навуковая спадчына В. Ластоўскага ў пытаннях графікі і арфаграфіі мае супярэчлівы характар.

У літаратурнай творчасці В. Ластоўскага вылучаюцца два перыяды. У першым (1910—18) ён выступае як аўтар кароткіх замалёвак з народнага жыцця і апрацовак гістарычных паданняў, мова якіх блізкая да народнай і не вызначаецца асаблівасцямі, калі не лічыць пэўнай гістарычнай стылізацыі. У другім перыядзе (1923—27) пісьменнік змяшчае ў часопісе «Крывіч» вершы і пераклады, дзе яскрава выявіліся ягоныя пошукі ў галіне беларускага слоўніцтва. Наватворы і знаходкі В. Ластоўскага часам суладна адпавядаюць нацыянальна-рамантычнаму зместу твораў, хоць месцамі ўскладняюць разуменне тэксту, патрабуюць каментарыяў.

*Тв.:* Kaliś i ciapier: Histaryczna-hramadzianskija narysy. Wilnia, 1918; Слоўнік геамэтрычных і трыганамэтрычных тэрмінаў і сказаў (разам з К. Душ-Душэўскім). Коўна, 1923; Аб найменьнях — «Гуды» — «Крывічы» — «Русь»; Тэрміналёгія да анатоміі і фізыалёгіі // Крывіч. 1923. № 1; Пагляд расійскіх вучоных на беларускую мову // Тамсама. № 2; Матэрыялы да беларускага зельніка // Тамсама. № 4; Расійскія вучоныя аб Крывічах // Тамсама. № 5; Хто ў каго запазычае?; Першыя беларускія слоўнікі // Тамсама. № 6; Номэнклятура беларускіх птушак (з Т. Іваноўскім і К. Душ-Душэўскім) // Тамсама. 1924, № 1(7); Доктар Францішак Скарына (1525—1925); Пляновая асыміляцыя // Тамсама. № 2(8); Аб назовах «Крывія» і «Беларусь»; Прычыны заняпаду крыўскай мовы ў XVII ст. // Тамсама. 1925. № 10(2); Жывая старасьвеччына // Тамсама. 1926. № 1(11); У справе рэформы кірылаўскае азбукі // Тамсама. 1927. № 12; Прамова // Працы Акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мн., 1927.

*В. Вячорка, С. Шупа.*

## ЛАТЫШСКАЯ МОВА

Латышская мова — нацыянальная мова латышоў і дзяржаўная Латвійскай Рэспублікі. Паводле перапісу 1989 года ў Латвіі налічваецца 1 663 312 чалавек, якія лічаць латышскую мову роднай або свабодна ёю валодаюць. Разам з літоўскай належыць да ўсходнебалтыйскіх моў. У выніку інтэрвенцыі нямецкіх феадалаў у 13 ст. была выціснена з ужытку нямецкай мовай, што надоўга затрымала яе развіццё. Першая кніга на латышскай мове «Нямецкая імша» была выдадзена ў 1525 г. ў Германіі, але ў Латвію не трапіла. У 1537 г. з'явілася рукапісная «Падручная кніга царквы св. Якава». З'яўленне першых друкаваных кніг на латышскай мове адносіцца да канца 16 — сярэдзіны 17 ст.— «Катэхізіс» П. Канізія (Вільня, 1585), «Малы катэхізіс» М. Лютэра (Кёнігсберг, 1586), слоўнік латышскай мовы Г. Манцэля (Рыга, 1638), граматыка латышскай мовы І. Г. Рэяхаўзана (Рыга, 1644). Літаратурная латышская мова склалася ў канцы 19 ст. Пісьмо на аснове лацінскай графікі (33 літары). Існуюць 3 дыялекты латышскай мовы: сярэднелатышскі (цэнтральная Латвія, лёг у аснову літаратурнай латышскай мовы), лівонскі (паўночная частка Курземе, паўночна-заходняя частка Відземе на беразе Рыжскага заліва), верхнелатышскі (усходняя частка Латвіі). Для латышскай мовы характэрна: у галіне фанетыкі — галосныя гукі дзеляцца на кароткія і доўгія, 5 дыфтонгаў, складовая інтанацыя, націск амаль заўсёды на першым складзе; у граматыцы — зваротныя назоўнікі, два роды назоўнікаў (мужчынскі і жаночы), 7 склонаў, у тым ліку месны беспрыназоўнікавы і клічны, азначальная і неазначальная формы прыметнікаў, 5 ладоў дзеяслова (абвесны, загадны, умоўны, пераказальны, павіннасны), складаныя формы часу, змяненне дзеепрыслоўяў па родах і ліках; у сінтаксісе — недапасаванае азначэнне (родны склон назоўніка), параўнальна вольны парадак слоў, канструкцыя «давальны самастойны». У выніку ўплыву латышскай мовы беларускай літаратурнай мовай і народнымі гаворкамі была запазычана даволі вялікая колькасць лексічных латышызмаў. Гэта пераважна назвы са сферы побыту і элементаў зямной паверхні: *асвер* 'калодзежны журавель', *падлабуніцца* 'падлашчыцца, падлізацца', *скалануць, сморгаць, шмуляць* 'церці, сціраць, націраць' і інш. У сваю чаргу латышскай мовай была запазычана вялікая колькасць беларусізмаў тыпу *abrus, buda, buza, pasta* і інш.

*Літ.:* Endzelin I. Lettische Grammatik. Riga, 1922: Lapinš. Latviešu etimologija. Dala. 1. Riga. 1967; Dala 2. Riga, 1970; Векслер Б. Х., Юрик В. А. Латышский язык. Рига, 1984.

*У. М. Свяжынскі.*

## ЛАЦІНКА

Лацінскі алфавіт узнік у Старажытным Рыме для пісьмовай перадачы лацінскай мовы (гл. **Лацінская мова**) у 7 ст. да н. э. на аснове этрускага алфавіта, які паходзіць з грэчаскага. Спачатку лацінка мела 20 літар, у 6—4 ст. да н. э.— 21. Назвы іх арыгінальныя або запазычаныя ад этрускаў. Фарміраванне лацінкі закончылася ў 1 ст. да н. э. (складалася з 23 знакаў). Форма літар устанавілася ў 1—5 ст. н. э., іх графічная эвалюцыя закончылася ў пачатку 9 ст. н. э. Найбольш старажытны помнік лацінскага пісьма — надпіс на знойдзенай у Прэнестэ (Італія) залатой

спражцы, які датуецца канцом 7 — пачаткам 6 ст. да н. э. У сярэднія вякі, калі лацінская мова з'яўлялася міжнароднай мовай еўрапейскага культурнага свету, лацінка папоўнілася літарамі *j* і *w*, а літары *u* і *v* сталі адрознівацца гукавым значэннем [у] і [в]. Лацінскі алфавіт запазычыла большасць еўрапейскіх народаў. У наш час налічваецца больш за 70 алфавітаў на лацінскай аснове, якімі карыстаецца каля 35 % насельніцтва свету. Алфавіты на базе лацінкі выкарыстоўваюцца ў латышскай, літоўскай, эстонскай і карэльскай мовах. У 1989 г. на лацінскі алфавіт пераведзена малдаўская мова.

На Беларусі лацінскі алфавіт вядомы з старажытнасці ў помніках на польскай і лацінскай мовах. Асабліва спрыяльныя ўмовы для выкарыстання лацінскага алфавіта склаліся тут у другой палове 16 ст. ў сувязі з пашырэннем паланізацыі і каталіцызму. З гэтага часу лацінка паступова пацясняе кірыліцу ў сферы дзелавога пісьменства, паколькі юрыдычныя дакументы або іх асноўныя палажэнні ўсё часцей пісаліся па-польску ці па-лацінску. Лацінскую графіку выкарыстоўвалі пры напісанні твораў на польскай і лацінскай мовах некаторыя беларускія асветнікі і пісьменнікі (С. Будны, М. Гусоўскі і інш.). Лацінскі алфавіт прымяняўся пры друкаванні навуковых трактатаў і палемічных твораў, напісаных на лацінскай і польскай мовах. Лацінка ўжывалася побач з кірыліцай і ў друкаваных кнігах рэлігійных жанраў, напрыклад, у «Казанні Кірыла» С. Зізанія (Вільня, 1596), дзе паралельна з беларускім змешчаны польскі тэкст.

Нават у 18—19 ст., калі лацінская мова на Беларусі страціла сваё значэнне, лацінка працягвала ўжывацца перш за ўсё ў польскамоўным пісьменстве. У 18 ст. яна выкарыстоўвалася паралельна з кірыліцай у некаторых драматычных творах на беларускай мове. У 19 ст. лацінка (пры існаванні кірыліцы) была прыстасавана беларускімі пісьменнікамі (Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, А. Гурыновіч і інш.) для перадачы беларускай мовы. Лацінкай друкавалася нелегальная, першая на беларускай мове газета «Мужыцкая праўда» (1862—63) К. Каліноўскага, кірыліцай і лацінкай — газеты «Наша доля» (1906) і «Наша ніва» (1906—12). Лацінкай надрукаваны творы Цёткі (кнігі «Скрыпка беларуская», «Хрэст на свабоду», «Першае чытанне для дзетак-беларусаў», 1906), зборнік Я. Купалы «Гусляр» (1910), раннія творы Я. Коласа і інш. У Заходняй Беларусі лацінка ўжывалася побач з кірыліцай да 1939 г. і ў перыёдыцы, і ў кніжных выданнях. Зараз выкарыстоўваецца пры друкаванні некаторых беларускіх выданняў.

*Літ.*: Люблинская А. Д. Латинская палеография. М., 1969; Булыка А. М. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мн., 1970; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968. *А. М. Булыка.*

## ЛАЦІНСКАЯ МОВА

Лацінская мова — адна з старажытных індаеўрапейскіх моў. Адносіцца да групы італійскіх моў. Характарызуецца проціпастаўленнем доўгіх і кароткіх галосных, сталым месцам націску на 2-м ці 3-м складзе ад канца слова. Паводле граматычнага ладу — флектыўная (пры скланенні, спражэнні ўтварае формы пры дапамозе флексіі, або канчатка). Зараз мёртвая. Афіцыйная мова Ватыкана і каталіцкай царквы.

Паводле паходжання — мова племені лацінаў, якія насялялі вобласць Лацый у заходняй частцы сярэдняй Італіі з цэнтрам у Рыме. З ростам Рымскай дзяржавы пашырылася на ўвесь Апенінскі паўвостраў, пазней — на Паўночную Афрыку, Галію, Брытанію, Дакію і інш. Прайшла некалькі перыядаў развіцця. Да сярэдзіны 3 ст. да н. э. выступала ў выглядзе дыялектаў, паступова набываючы пісьмовую форму. Самы старажытны помнік лацінскага пісьма — надпіс на знойдзенай у Прэнестэ залатой спражцы, які датуецца канцом 7 — пачаткам 6 ст. да н. э. Зроблены ён лацінскім алфавітам, што ўзнік у 7 ст. да н. э. на аснове этрускага, які паходзіць з грэчаскага. Са з'яўленнем першых літаратурных твораў на змену далітаратурнай лацінскай мове прыйшла старажытналітаратурная, або «архаічная», латынь (сярэдзіна 3 — пачатак 1 ст. да н. э.). Самымі вядомымі прадстаўнікамі яе былі Плаўт, Тэрэнцый, Пакувій, Эній, Катон. Найбольш высокага ўзроўню раз-




**Беларускія выданні лацінкаю.**



**Ліст А. Смоліча да Зоські Верас, напісаны лацінкаю.**

віцця літаратурная лацінская мова дасягнула ў перыяд класічнай, або «залатой», латыні (1 ст. да н. э.), калі былі напісаны творы Цэзара, Цыцэрона, Вергілія, Гарацыя, Авідзія. Прыкметы занянаду мовы сталі з'яўляцца ў перыяд «сярэбранай» латыні (1—2 ст. н. э.), хоць у творчасці такіх яркіх прадстаўнікоў тагачаснай літаратуры, як Сенека, Тацыт, Лукіян, Ювенал, Апулей, яны яшчэ мала заўважаліся. «Позняя» латынь (з 3 ст. н. э.) характарызуецца развіццём народна-размоўнай мовы. Пасля гібелі Заходнярымскай імперыі (5 ст. н. э.) з дыялектаў лацінскай мовы пачалі развівацца раманскія мовы: французская, італьянская, іспанская, партугальская, румынская і інш.

У сярэднявечны лацінская мова стала ў Заходняй Еўропе міжнароднай мовай школы, навукі, філасофіі, дыпламатыі, часткова літаратуры (раманы, навелы, паэмы, песні, драматычныя творы, гістарычныя хронікі). Яна выступала як пісьмовая і размоўная мова лекараў і каталіцкага духавенства. У эпоху гуманізму (14—16 ст.) адраджаюцца моўныя нормы «залатой» і «сярэбранай» латыні. На лацінскай мове пісалі Т. Мор, Эразм Ратэрдамскі, Т. Кампанела, М. Каперн нік, Ф. Бэкан, Б. Спіноза, І. Ньютан. Панаванне латыні працягвалася на Захадзе да таго часу, пакуль у еўрапейскіх народаў не развіліся свае літаратуры і не ўмацаваліся нацыянальныя мовы настолькі, каб служыць сродкам выражэння не толькі літаратуры, але і навукі.

У Старажытнай Русі лацінская мова пашырэння не мела, але словы лацінскага паходжання ішлі ў старажытнарускую мову праз грэчаскае пасрэдніцтва. Распаўсюджанне лацінскай мовы на ўсходнеславянскіх землях пачалося крыху пазней, з канца 14 ст. Па прыкладзе Польшчы, дзе выкарыстанне сярэдневяковай латыні ва ўсіх сферах грамадскага і навукова-культурнага жыцця мела даўнюю традыцыю, яе рана пачалі выкарыстоўваць пры напісанні найважнейшых дакументаў у судах і дзяржаўна-адміністрацыйных установах Вялікага княства Літоўскага, а таксама ў дыпламатычнай перапісцы з замежнымі краінамі. Асабліва спрыяльныя ўмовы для пашырэння лацінскай мовы склаліся на Беларусі ў 2-й палове 16 ст. ў сувязі з паланізацыяй грамадскага і культурнага жыцця беларускага насельніцтва. У гэты час лацінская мова, паралельна з польскай і беларускай, стала адным з асноўных прадметаў навучання ў шматлікіх каталіцкіх і уніяцкіх школах, якія былі заснаваны ў многіх гарадах і мястэчках Беларусі. Не пазбягалі вывучэння латыні і арганізаваныя ў канцы 16 — пачатку 17 ст. праваслаўныя брацкія школы, вучэбнымі праграмамі якіх прадугледжвалася таксама авалоданне беларускай, польскай і грэчаскай мовамі. Вывучэнне гэтых моў было абавязковым, што падкрэслівалася ўжо ў каралеўскіх прывілеях на адкрыццё брацкіх школ, напрыклад у грамаце караля Сігізмунда III брэсцкаму царкоўнаму брацтву: «А для науки детей народу христіанского всякого стану ку оздобе и пожитку Речи Посполитое позволяемъ имъ мети школу греческого, латинского, польского и руского (белорускаго) языка и людей учоныхъ в тыхъ школахъ волно ховати духовного и свецкого стану» (1592). Гэта не выклікала пярэчання з боку праваслаўных дзеячаў, бо сярэдневяковая латынь была мовай заходнееўрапейскай навукі і яе вывучэнне было патрэбна як для павышэння аўтарытэту брацкіх школ, так і для практычнай мэты — вядзення палемікі з езуітамі. Веданне лацінскай мовы было неабходна і для таго, каб атрымаць вышэйшую адукацыю.

З 2-й паловы 16 ст. лацінская мова заняла моцныя пазіцыі ў справаводстве юрыдычных і дзяржаўна-адміністрацыйных органаў Вялікага княства Літоўскага, выступаючы пры афармленні многіх дакументаў побач з беларускай і польскай мовамі. Яе добра ведалі і пісалі на ёй беларускія асветнікі і пісьменнікі Ф. Скарына, С. Будны, М. Гусоўскі, М. Карыцкі, К. Лышчынскі, А. Рымша і інш. Але асноўнай сферай прымянення гэтай мовы стала навуковая літаратура, якую выпускалі многія друкарні, заснаваныя ў Ашмянах, Брэсце, Бялынічах, Гродне, Заслаўі, Клецку, Любчы, Мінску, Пінску, Полацку, Слоніме, Слуцку і іншых гарадах і мястэчках Беларусі. У выніку лацінская мова аказвала прыкметны ўплыў на старабеларускую мову, садзейнічала замацаванню ў ёй лацінскіх элементаў найперш у галіне лексічнага складу. Менавіта ад таго часу беларускай мове вядомы запазычаныя непасрэдна і праз польскую мову лацінізмы, звязаныя з галінамі грамадска-палітычнага жыцця (*аўдыенцыя, дэлегат, дэпутат, інстанцыя, камісар, канстытуцыя, ліга, мандат, місія, нацыя, палітыка, сесія*), сацыяльна-эканамічных адносін (*арэнда, ганарар, кааперацыя, кантракт, квота, манаполія, пеня, рата, сума, такса, фундатар*), медыцынскай практыкай (*апетыт, аптэкар, грацыя, камплекцыя, лунацік, медык, медыцына, пульс, рэцыдыў, рэцэпт, тэмперамент*), са сферамі навуковай, асветніцкай, літаратурна-мастацкай дзейнасці (*аўтар, верш, колер, літара, нота, прафесар, студэнт, тэкст, фабула, цытата, экзамен*), а таксама многія тэрміны для абазначэння адцягненых паняццяў (*абсурд, актуальны, гармонія, кандыцыя, прагрэс, рацыя, рэальны, сентэнцыя, традыцыя, універсальны, фінал, функцыя*).

У 18—19 ст. лацінская мова на Беларусі страціла сваё значэнне, але лацінскі алфавіт (гл. **Лацінка**) працягваў ужывацца найперш у польскамоўным пісьменстве. У 18 ст. ён выкарыстоўваўся паралельна з кірыліцай у некаторых драматычных творах на беларускай мове. У 19 ст. лацінка (пры існаванні кірыліцы) была прыстасавана беларускімі пісьменнікамі (Я. Чачот, П. Багрым, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, А. Гурыновіч і інш.) для друкавання сваіх твораў. Лацінкай друкавалася нелегальная, першая на беларускай мове газета «Мужыцкая праўда» (1862—63) К. Каліноўскага, кірыліцай і лацінкай — газеты «Наша доля» (1906) і «Наша ніва» (1906—12), некаторыя заходнебеларускія газеты і часопісы («Беларуская крыніца», «Новая варта»).

У наш час лацінская мова здала многія свае пазіцыі, але частка іх утрымліваецца трывала ў галіне навуковай тэрміналогіі. Як правіла, запазычваецца інтэрнацыянальная лексіка лацінскага паходжання ці ўзнікшая на базе словаўтваральных элементаў лацінскай мовы. Гэтыя інтэрнацыяналізмы займаюць прыкметнае месца ў тэрміналогіі грамадазнаўчых навук (*агітацыя, агрэсія, анексія, апазіцыя, дактрына, інфляцыя, пракламацыя, рэвалюцыя*), літаратуразнаўства і мастацтвазнаўства (*аплікацыя, арэна, інтэрмедыя, рэпетыцыя, рэзананс, сатыра, спектакль*), біялагічных навук (*адаптацыя, альбумін, арганізм, бацыла, біцэпс, вегетацыя, гібрыд, памідор*), астраноміі і геаграфіі (*абсерваторыя, акваторыя, арбіта, арэол, вулкан, глобус, кантынент, экватар*), фізікі і хіміі (*аберацыя, алюміній, амплітуда, антэна, вакуум, вібрацыя, дыфузія, калорыя*), тэхнікі (*біплан, генератар, калектар, матор, ротар, рэпрадуктар, транспарт*) і г. д. Вядучую ролю выконваюць лацінскія тэрміны ў сферы медыцыны (*ампула, ампутацыя, ангіна, вакцына, валідол, вірус, вітамін, імунітэт, ін'екцыя, інфаркт, інфекцыя, кампрэс, мікроб, санаторый*). Побач з айчыннымі назвамі мае сваю лацінскую назву кожная расліна (напрыклад, сланечнік для батаніка — *Helianthus annuus*, бэз — *Syringa*, вяргіня — *Dahlia*, чаромха — *Padus*), прадстаўнікі фауны (напрыклад, кот — *Felis*, рысь — *Felis lynx*, воўк — *Canis lupus*, шпак — *Sturnus vulgaris*), што неабходна для адзінай міжнароднай класіфікацыі.

Самымі выразнымі прыкметамі слоў, запазычаных з лацінскай мовы, з'яўляюцца канцавыя спалучэнні *-ум, -ус, -тар, -ент, -ура, -цыя, -ат*: *пленум, корпус, аратар, апанент, цэзура, градацыя, кангламерат*.

*Літ.:* Люблинская А. Д. Латинская палеография. М., 1969; Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970; Латинско-русский словарь / Сост. И. Х. Дворецкий. 2 изд. М., 1976; Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мн., 1980.

*А. М. Булыка.*

## ЛАШКАВА ЛІЛІ МАРЫНАВА

Балгарскі лінгвіст, педагог і перакладчык Л. М. Лашкава нарадзілася 7 верасня 1943 г. ў Сафіі. Кандыдат філалагічных навук (1974). Дацэнт (1984). У 1966 г. скончыла Сафійскі універсітэт, дзе працуе на кафедры славянскага мовазнаўства. Адначасова ў 1972—80 гг. навуковы супрацоўнік секцыі славянскага мовазнаўства Інстытута балгарскай мовы Балгарскай акадэміі навук.

Як славіста Л. М. Лашкаву цікавіць сінтаксіс, семантыка, гісторыя літаратурных моў (пераважна ў супастаўляльным аспекце з тыпалагічнымі абагульненнямі), а таксама тэорыя перакладу.

Аналізуючы пераклады на беларускую, рускую і сербскахарвацкую мовы сказаў з выражэннем граматычнага значэння працягласці, непарыўнасці дзеяння, Л. Лашкава даследуе найбольш характэрныя спосабы іх перадачы ў беларускай мове. У артыкуле «Ужыванне некаторых характэрных дзеяслоўных канструкцый пры перакладзе на балгарскую мову» [Езикови проблеми на превода (славянски езици). София, 1985] вызначаны і пералічаны гэтыя канструкцыі. Даследчыца паказвае, што для беларускай мовы нехарактэрныя састаўныя дзеяслоўныя выказнікі з фазавым дзеясловам *прадаўжаць, працягваць* у спалучэнні з сэнсавым дзеясловам, і дзеясловы *прадаўжаць, працягваць* у якасці лексемы са значэннем «праця̆г у часе» *(прадоўжыць традыцыі, прадоўжыць справу, працягваць будаўніцтва)*.

Л. Лашкава выкарыстоўвае матэрыялы перакладаў беларускай прозы на балгарскую мову і вызначае розныя тыпы функцыянальных адпаведнасцей балгарскаму азначальнаму члену ў беларускай мове. Яна разам з Л. Куевай-Шверчак аўтар артыкула «Пра некаторыя функцыянальныя адпаведнасці балгарскага азначальнага члена ў беларускай мове» (Бюлетин за съпоставително изследване на българския език с други езици. София, 1976. Бр. 5).

Агульнае і самабытнае ў складаных прыметніках дзвюх моў Л. Лашкава разглядае ў артыкуле «Да тыпалогіі складаных прыметнікаў у беларускай і балгарскай мовах» (Годишник на Софийския университет «Климент Охридски». Ф-т по славянски филологии. Езикознание. София, 1986. Т. 76, кн. 1). Супаставіўшы выбраныя з «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» складаныя прыметнікі і іх сінтаксічныя адпаведнікі ў балгарскай мове, даследчыца выявіла, што беларускія прыметнікі адзіныя з падобнымі прыметнікамі іншых славянскіх моў, хоць зафіксаваны і спецыфічна беларускія ўтварэнні з высокай ступенню ідыяматызацыі *(векапомныя дні, падзеі; дваякаўвагнутая лінза; вогненебяспечныя матэрыялы; вокамгненная ўспышка)*.

У дакладзе «Прыназоўнікава-тэмпаральныя канструкцыі ў беларускай і балгарскай мовах» на беларуска-балгарскім сімпозіуме ў 1987 г. ў Мінску Л. Лашкава працягвае даследаванне структурна-тыпалагічных асаблівасцей дзвюх моў. Яна супастаўляе прыназоўнікава-тэмпаральныя канструкцыі тыпу *перад вайной, у часы вайны, той вясной, штолета, у жніво, аб адзін дзень, цераз год, на хвілю, за вячэрай, па начах* і прыходзіць да вываду, што ў абедзвюх мовах часавая і прасторавая лакалізацыя дыялектычна звязаны, што праяўляецца праз полісемантычнасць прыназоўнікаў.

З 1976 г. Л. Лашкава ўдзельнічае ў лінгвістычных беларуска-балгарскіх навуковых сімпозіумах па параўнальным мовазнаўстве ў Мінску (1976, 1982), Сафіі (1979). На балгарскую мову яна пераклала аповесці «Дрыгва» Я. Коласа, «Найдорф» І. Пташнікава, «Запіскі Занядбайлы» Б. Сачанкі, «Раданіца» А. Кудраўца, асобныя апавяданні Я. Коласа, Л. Гаўрылкіна, М. Гіля, Г. Далідовіча, А. Кудраўца, І. Пташнікава для анталогіі «Пад пошум дубоў» (1981). *Л. В. Лявонава.*

## ЛЕКАЎ ІВАН

Балгарскі мовавед-славіст, даследчык балгарска-ўсходнеславянскіх, у тым ліку і балгарска-беларускіх, моўных сувязей, І. Лекаў нарадзіўся 1 сакавіка 1904 г. ў Сафіі. Член-карэспандэнт Балгарскай акадэміі навук (1945), прафесар (1945). Вучыўся ў Ягелонскім і Сафійскім універсітэтах, спецыялізаваўся ў галіне славістыкі ў Кракаве, Берліне і Вене. У 1948—74 гг.— кіраўнік кафедры славянскага мовазнаўства ў Інстытуце балгарскай мовы Балгарскай АН. Памёр 4 жніўня 1978 г.

Асноўны кірунак даследаванняў — параўнальна-гістарычнае і тыпалагічнае вывучэнне граматычнага ладу, фаналогіі і лексікалогіі славянскіх моў. Шырока выкарыстоўваў факты беларускай мовы ў манаграфіях: «Адзінства і нацыянальная своеасаблівасць асноўнага слоўнікавага фонду славянскіх моў» (1955), «Словаўтваральныя магчымасці славянскіх моў» (1958), «Агульнае і рознае ў граматычным ладзе славянскіх моў» (1960), а таксама ў «Кароткай параўнальна-гістарычнай і тыпалагічнай граматыцы славянскіх моў» (1968). У працы «Характарыстыка агульных рыс у балгарскай і ўсходнеславянскіх мовах» (Сборник на Българската академия на науките. 1942. Кн. 37) вучоны зрабіў спробу франтальнага супастаўлення моўных фактаў з мэтай выяўлення слядоў старажытнай блізкасці ўсходнеславянскіх і балгарскай моў. Насуперак П. Бузуку лічыў, што асноўныя спецыфічныя асаблівасці беларускай мовы маюць адносна позняе паходжанне, і таму «супастаўленне балгарскай мовы з беларускай... не адкрывае новых перспектыў» у гэтым плане. Аднак пазней у артыкуле «Старая супольнасць і новыя канвергенцыі ў развіцці беларускай і балгарскай моў» [Език и литература. 1967. № 1; Беларускае і славянскае мовазнаўства: (Да 75-годдзя акадэміка К. Крапівы). Мн., 1972] ён спецыяльна займаецца агульнымі з'явамі ў беларускай і балгарскай мовах, нехарактэрнымі для рускай (зацвярдзенне гука *р*, захаванне форм клічнага склону і інш.), і прыходзіць да вываду пра наяўнасць у іх старых і новых рыс падабенства. У каштоўным з метадалагічнага боку артыкуле «Супастаўляльны аналіз беларускай і балгарскай моў у рамках родных адносін паміж дзвюма мовамі» (Бюлетин за съпоставително изследване на българския език с други езици. 1976. Бр. 5) сцвярджае, што невялікая колькасць характэрных толькі для беларускай мовы рыс тлумачыцца яе цэнтральным становішчам сярод іншых славянскіх моў і ўмераным тэмпам эвалюцыі. Яе месца ў шырокім славянскім кантэксце І. Лекаў вызначае наступным чынам: «Беларуская мова выступае звычайна саўдзельніцай ва ўтварэнні новых з'яў і радзей іх пасіўнай узбуджальніцай, як, напрыклад, у адносінах тэндэнцыі да дэпалаталізацыі некаторых зычных. Кола канвергентнага развіцця, у якое яна трапляе ў галіне фанетыкі і лексікі, ахоплівае польскую, літоўскую, украінскую і іншыя зоны. У той час як аканне збліжае яе з рускай, дзеканне і цеканне з польскай, а падваенне і дыфтангізацыя ў рамках сказа *(была ў брата)* з украінскай і іншымі сярэднеславянскімі (чэшскай) абласцямі, дэпалаталізацыя *р* мае паўднёваславянскі кірунак» (С. 158). У гэтым жа артыкуле робіцца спроба, акрамя арэальнай, даць першую тыпалагічную характарыстыку беларускай мове на фоне іншых славянскіх: флексійная паўночнаславянская мова; яе тып вызначаецца фанетычнай кантактнасцю і частковай сінтаксічнай адасобленасцю. І. Лекаў — укладальнік і рэдактар зборніка літаратурных тэкстаў на славянскіх мовах для балгарскіх студэнтаў-філолагаў, дзе змяшчаюцца ўзоры беларускай прозы і паэзіі ў арыгінале, у тым ліку вершы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, А. Куляшова (Славянски текстове. София, 1958; Славянски езици. Кратки характеристики, образци и речници. Северно-славянска група. София, 1972).

*Літ.:* Иванчев С. Иван Леков // Съпоставително езикознание. 1979. Бр. 2.

*Г. А. Цыхун.*

## ЛЕКСІКА

Лексіка (ад грэч. lexikós які адносіцца да слова) — гэта сукупнасць усіх слоў пэўнай мовы, яе слоўнікавы склад. У больш вузкім значэнні лексіка абазначае асобныя пласты слоўнікавага складу мовы, вылучаныя на падставе той або іншай прыкметы.

Як вядома, наша мова з'яўляецца своеасаблівай «сістэмай сістэм» і мае складаную шматузроўневую будову. Прычым для кожнага моўнага ўзроўню ўласцівы свой набор элементарных адзінак. У якасці такіх адзінак сучасная лінгвістыка найчасцей разглядае гукі (фанемы), марфемы, словы (лексемы) і словазлучэнні ці сказы (сінтаксемы). Паводле адметных асаблівасцей пералічаных моўных элементаў (іх колькасці, адносін да пазамоўнай рэчаіснасці, паводзін у маўленні і інш.) вылучаюцца 4 асноўныя моўныя ўзроўні — фаналагічны, марфалагічны, лексічны і сінтаксічны. У адрозненне ад фаналогіі, марфалогіі і сінтаксісу, якія маюць толькі апасродкаваныя адносіны да прадметаў і з'яў пазамоўнай рэчаіснасці, лексіка непасрэдна звязваецца з рэаліямі паўсядзённага жыцця, даючы ім слоўныя абазначэнні. Так, сёння можна толькі гадаць, чаму ў назве *стала* замацаваліся гэтыя [с], [т], [л], а не іншыя зычныя гукі, або чаму склонавыя канчаткі назвы *стала* ўласцівыя для назоўнікаў мужчынскага роду, а не жаночага ці ніякага. Аднак сам факт з'яўлення слоўнага абазначэння для гэтага прадмета не выклікае ніякіх пытанняў, паколькі з'яўляецца заканамернай з'явай. Фактычна няма ніводнай рэчы вакол нас, ніводнага паняцця ў нашай свядомасці, якія нельга было б абазначыць словам.

Непасрэдная сувязь лексікі з прадметамі пазамоўнай рэчаіснасці і паняццямі становіцца асабліва відочнай, калі параўнаць слоўнікавыя склады няроднасных моў. Напрыклад, у мовах народаў Поўначы налічваюцца дзесяткі назваў розных станаў снегу, у той час як на афрыканскім кантыненце, дзе снегу наогул не бывае, у мовах мясцовых плямён цалкам адсутнічаюць слоўныя абазначэнні для снегу. Вось гэтая здольнасць слова самым непасрэдным чынам адлюстроўваць існуючыя рэаліі якраз і характарызуе слова як адзінку лексікі.

Тэндэнцыя да своечасовага адлюстравання ў словах прадметаў пазамоўнай рэчаіснасці і паняццяў абумовіла наяўнасць у лексіцы яшчэ адной адметнай асаблівасці, паводле якой яна адрозніваецца ад іншых моўных узроўняў. Гэта значная рухомасць і зменлівасць лексікі ў часе, якая цалкам адпавядае рухомасці і зменлівасці знешняга свету. Паколькі ў жыцці ледзьве не кожны дзень з'яўляюцца новыя прадметы і паняцці і знікаюць старыя рэаліі, то адпаведна і ў нашай мове ўвесь час узнікаюць новыя словы і выходзяць з ужытку старыя. Падлічана, што на працягу аднаго тысячагоддзя слоўнікавы склад мовы змяняецца прыблізна на 80 % (напрыклад, ужо пры нашай памяці выйшлі з паўсядзённага ўжытку такія беларускія словы, як *астрог, БелАПП, вылучэнец, выстарчальны, камбед, управа,ураднік* і іншыя). У сваю чаргу, фаналогія, марфалогія і сінтаксіс мовы за адзначаны прамежак часу змяніліся значна менш, што, безумоўна, надае мове пэўную ўстойлівасць.

Выключная рухомасць, зменлівасць лексікі ў часе не дазваляе дакладна вызначыць колькасць слоў, якія існуюць у слоўнікавым складзе мовы ў той або іншы часавы перыяд. Напрыклад, пры апісанні лексікі пэўнай эпохі вельмі цяжка пералічыць словы з папярэдняй эпохі, якія ўжо не ўжываюцца, і словы з наступнай эпохі, якія яшчэ не ўзніклі. Таму яшчэ адна адметная асаблівасць лексікі — няпэўнасць, «размытасць» лексічных межаў мовы ў кожны канкрэтны момант яе існавання. У адрозненне ж ад лексікі асноўныя фанетычныя і граматычныя рысы мовы з'яўляюцца дастаткова акрэсленымі.

У адрозненне ад фаналогіі, марфалогіі і сінтаксісу, якія лічацца закрытымі моўнымі падсістэмамі, лексіка з'яўляецца адкрытым і найбольш пранікальным участкам мовы. Менавіта ў лексіцы ў першую чаргу праяўляюцца вынікі моватворчай дзейнасці асобных носьбітаў мовы — асабліва пісьменнікаў, журналістаў, вучоных-мовазнаўцаў і ўсіх, хто прафесійна звязаны са словам. Калі, напрыклад, стварэнне якога-небудзь новага гука ці новай граматычнай формы сёння найчасцей успрымаецца як недарэчнасць або недастатковае валоданне мовай, то лексічныя наватворы пастаянна ўзнікаюць у нашым маўленні для абазначэння новых з'яў і прадметаў. Прычым частка гэтых наватвораў з цягам часу замацоўваецца і ў літаратурнай мове, асабліва калі ёсць пільная грамадская патрэба ў такіх словах і калі яны створаны ўдала.

Яшчэ адным паказчыкам адкрытасці лексікі для ўсяго новага з'яўляецца тое, што менавіта на лексічным узроўні адбываецца пераважная большасць запазычанняў з іншых моў.

Часавая і прасторавая ўсеабдымнасць лексікі, якая дае магчымасць занатаваць у слоўнай форме ўсю разнастайнасць пазамоўнай рэчаіснасці (як падлічана, у межах апошняй сёння вылучаецца больш за чатыры мільёны натуральных і штучна створаных чалавекам прадметаў) у гістарычнай перспектыве мае вынікам незлічоную колькасць слоў, якімі ў розныя перыяды свайго развіцця ўзбагацілася наша мова. Незлічонасць лексічных адзінак у слоўнікавым складзе мовы — яшчэ адна адметная асаблівасць лексікі, бо колькасць элементарных моўных адзінак (гукаў і марфем) на фаналагічным і марфалагічным узроўнях з'яўляецца значна больш абмежаванай. Пералічаныя адметныя асаблівасці і спецыфічныя якасці лексікі даюць усе падставы лічыць яе самастойным моўным узроўнем, гэтаксама як і фаналогію, марфалогію і сінтаксіс.

У слоўнікавы склад сучаснай беларускай мовы нават па самых сціплых падліках уваходзіць каля паўмільёна літаратурных і дыялектных слоў. Прычым многія з іх маюць некалькі лексічных значэнняў, што значна павялічвае слоўныя магчымасці беларускай мовы. Калі ж сюды дадаць і практычна неабмежаваную спецыяльную тэрміналогію і наменклатурную лексіку, то цяжка нават уявіць сапраўдныя памеры таго слоўніка або картатэкі, якія маглі б увабраць гэтыя незлічоныя багацці. Сёння нават самыя поўныя слоўнікі беларускай мовы і фундаментальная слоўнікавая картатэка Інстытута мовазнаўства АН Беларусі (каля 3 мільёнаў картак) змяшчаюць толькі частку беларускай лексікі, прычым не самую вялікую.

Падобнае выкарыстанне тэрміна «лексіка» для абазначэння амаль бязмежнага акіяна беларускіх слоў, многія з якіх яшчэ нават і не даследаваны, безумоўна, надае гэтаму тэрміну пэўнае адценне гіпатэтычнасці. Лексіка ў такім яе разуменні не падлягае падзелу на лексічныя пласты і больш дробныя групоўкі слоў. Менавіта таму тэрмін «лексіка» нярэдка тлумачыцца даследчыкамі беларускай мовы як сукупнасць слоў, слоўнікавы склад мовы безадносна да паходжання слоў, часу іх узнікнення, стылістычнай і экспрэсіўнай дыферэнцыяцыі.

Тэрмін «лексіка» дамінуе над іншымі назвамі слоўных багаццяў мовы (лексікон і слоўнік), і сведчаннем шырокай яго ўжывальнасці з'яўляецца тое, што поруч з такімі адцягненымі значэннямі, як 'узровень мовы і сукупнасць слоў пэўнай мовы', ён мае даволі канкрэтнае значэнне 'вялікай часткі (лексічнага пласта) слоўнікавага складу мовы, вылучанай на падставе той або іншай прыкметы'. Прычым у якасці такой прыкметы можа разглядацца характарыстыка беларускіх слоў паводле іх нарматыўнага статуса, паходжання, стылістычнай афарбоўкі, сферы выкарыстання, прадметна-тэматычнай накіраванасці,

ступені ўжывальнасці і інш. Так, паводле нарматыўнага статуса ўсе беларускія словы дзеляцца на 2 вялікія групы — лексіку літаратурнай мовы, якая стала ўжо агульнанародным набыткам, і нелітаратурную лексіку, якую ўжываюць толькі пэўныя групы насельніцтва. У апошняй вылучаюцца дыялектная лексіка, устарэлая лексіка (архаізмы і гістарызмы), новая лексіка (неалагізмы і аказіяналізмы) і тэрміналагічная лексіка. Трапляючы ў рэестр нарматыўнага слоўніка, яны, як правіла, суправаджаюцца абмежавальнымі паметамі: *абл.* (абласное слова), *уст.* (устарэлае), *нов.* (новае), *спец.* (спецыяльны тэрмін).

Паводле паходжання словы беларускай мовы падзяляюцца на спрадвечную і запазычаную лексіку. У складзе спрадвечнай лексікі пры дапамозе параўнальна-гістарычнага метаду вылучаюцца 4 пласты слоў: індаеўрапейская, агульнаславянская (праславянская), усходнеславянская і ўласнабеларуская лексіка. У складзе ж запазычанай лексікі звычайна вылучаюць групы слоў, якія прыйшлі да нас з той або іншай мовы (русізмы, украінізмы, паланізмы, літуанізмы, германізмы, цюркізмы і інш.), інтэрнацыянальную і экзатычную лексіку.

Паводле стылістычнай афарбоўкі беларускіх слоў адрозніваюць перш за ўсё кніжную і размоўную лексіку. У межах кніжнай лексікі вылучаюць тэрміналагічную, гістарычную, паэтычную, архаічную, экзатычную лексіку і інш. У складзе ж размоўнай лексікі часцей за ўсё выдзяляюць прастамоўную, дыялектную, жаргонную, вульгарна-лаянкавую лексіку і інш.

Да стылістычнага размежавання слоўнікавага складу беларускай мовы нярэдка далучаецца дыферэнцыяцыя паводле эмацыянальна-экспрэсіўных магчымасцей. Наяўнасць у змесце асобных беларускіх слоў тых або іншых канатацыйных значэнняў (абразлівасці, памяншальнасці, узнёсласці, фамільярнасці і інш.) дазваляе побач з нейтральнай лексікай вылучыць такія слоўныя пласты, як абразлівая, афектыўная, паэтычная, узвышаная, фамільярная, эмацыянальная экспрэсіўная лексіка і інш.

Паводле сферы выкарыстання беларуская лексіка падзяляецца на афіцыйна-дзелавую, бытавую, вытворча-прафесійную, дзіцячую, навуковую, студэнцкую і г. д. Пры неабходнасці гэту дыферэнцыяцыю можна ўдакладняць — у межах асобных лексічных пластоў — шляхам аналізу прадметна-тэматычнай накіраванасці таго або іншага слова. Так, у межах вытворча-прафесійнай лексікі можна вылучыць такія аб'яднанні слоў, як будаўнічая, ваенная, землявробчая, кавальская, паляўнічая, лексіка пастухоў, плытагонаў, лексіка пчалярства і інш. Аналагічныя больш дробныя групоўкі слоў лёгка вылучыць і з афіцыйна-дзелавой, бытавой, навуковай і іншай лексікі.

Значная колькасць беларускіх слоў можа быць упарадкавана паводле крытэрыяў літаратурнага характару — у залежнасці ад таго, у творах якога літаратурнага кірунку, у творах якога аўтара, або нават у якім канкрэтным тэксце ўжываецца тое або іншае слова. У выніку можна вылучыць такія слоўныя пласты, як рамантычная лексіка, лексіка газеты «Наша ніва», лексіка Янкі Купалы, лексіка паэмы «Новая зямля» Якуба Коласа і інш.

Нарэшце, паводле ступені ўжывальнасці ўвесь слоўнікавы склад нашай мовы падзяляецца на актыўную лексіку (словы, якія мы шырока выкарыстоўваем у паўсядзённым жыцці) і пасіўную лексіку (словы, якія мы разумеем, але звычайна не ўжываем). У сваю чаргу, у межах актыўнай лексікі нярэдка вылучаецца яшчэ і агульнаўжывальная лексіка. Да яе звычайна адносяць самыя ўжывальныя і шматзначныя словы, якія ўтвараюць своеасаблівае лексічнае ядро, асноўны фонд слоўнікавага складу нашай мовы. Поруч з фаналагічнай сістэмай і граматычным ладам асноўны слоўнікавы фонд надае беларускай мове пэўную ўстойлівасць, забяспечвае пераемнасць паміж рознымі перыядамі развіцця мовы і сферамі яе выкарыстання.

Як можна было заўважыць, вылучаныя на падставе самых розных прыкмет пласты слоў часткова супадаюць па сваім змесце. Напрыклад, слова *воля* па лініі розных сваіх значэнняў трапляе ў склад і лексікі літаратурнай мовы, і ўстарэлай лексікі (у выразе *купіць волю*), спрадвечнай і паэтычнай лексікі; слова *ліра* адносіцца і да запазычанай лексікі (яно прыйшло да нас з італьянскай мовы), і да тэрміналагічнай (музычнай), і да паэтычнай (яно ўжываецца як сімвал паэзіі), і да дыялектнай (часцей у форме *лера* або *рэля*), і да гістарычнай лексікі. Падобныя ўзаемасувязі паміж рознымі пластамі беларускай лексікі па лініі асобных значэнняў шматзначных слоў, якія ўваходзяць у склад гэтых пластоў, надаюць слоўнікаваму складу нашай мовы сістэмны характар, што дае падставы для вылучэння і апісання так званай лексіка-семантычнай сістэмы мовы.

Складанасць і шматаспектнасць беларускай лексікі з'яўляецца асноўнай прычынай таго, што яна як аб'ект даследавання вывучаецца ў межах самых розных лінгвістычных дысцыплін: лексікалогіі, семасіялогіі, анамасіялогіі, фразеалогіі, стылістыкі, паэтыкі, граматыкі і інш. Фіксацыяй і сістэматызацыяй лексікі займаецца лексікаграфія (гл. **Лексікаграфія**).

*Літ.:* Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970; Методы изучения лексики. Мн., 1975; Б а х а н ь к о ў Я. Р. Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд. Мн., 1982; К р а с н е й В. П. Грані слова. Мн., 1986. *В. К. Шчэрбін.*

## ЛЕКСІКАГРАФІЯ

Лексікаграфія (ад грэч. lexikón слоўнік і gráphō пішу) — раздзел мовазнаўства, у якім вывучаецца тэорыя і практыка складання слоўнікаў. У залежнасці ад профілю слоўнікавага матэрыялу лексікаграфія падзяляецца на гістарычную, дыялектную, перакладную і г. д.

Шматлікія і разнастайныя слоўнікі і энцыклапедыі з'яўляюцца на сённяшні дзень адным з найбольш універсальных спосабаў захоўвання назапашаных чалавецтвам ведаў. У розных народаў шлях ад з'яўлення першых рукапісных слоўнічкаў да распрацоўкі сучасных шматтомных друкаваных слоўнікаў і машынных тэзаўрусаў складваўся па-свойму. Беларускія лексікографы вылучаюць 3 перыяды ў развіцці слоўнікавай справы на Беларусі: даслоўнікавы перыяд, ранні слоўнікавы перыяд і перыяд развітой лексікаграфіі.

У першы перыяд (13—15 ст.) былі выпрацаваны толькі асобныя элементы будучых слоўнікаў. Так сталася, што ў адрозненне ад большасці еўрапейскіх краін, дзе функцыі канфесійнай мовы выконвала латынь, асноўным сродкам пашырэння хрысціянства (а з ім і пісьменства) на ўсходнеславянскім моўным абшары была стараславянская (царкоўнаславянская) кніжна-пісьмовая мова. Нягледзячы на значную блізкасць стараславянскай і старабеларускай моў, не ўсе царкоўнаславянскія словы былі зразумелыя нашым продкам. Таму на палях і непасрэдна ў тэксце кніг перапісчыкі і выдаўцы змяшчалі глосы — пераклады ці апісальныя тлумачэнні сродкамі роднай мовы незразумелых слоў. Значнае пашырэнне сярод усходнеславянскіх кніжнікаў набылі глосы, створаныя Ф. Скарынам, В. Цяпінскім, Сімяонам Полацкім і інш. Такім чынам, асноўнай функцыяй даслоўнікавага перыяду было тлумачэнне незразумелых слоў з дапамогай глосаў.

Наступны перыяд пачынаецца тады, калі назапашаная шматвяковай практыкай перапісвання кніг шматлікія глосы будуць дзеля зручнасці сабраны ў спецыяльныя рукапісныя зборнікі (гласарыі), якія называліся ў той час лексіконамі, лексісамі і інш. Гісторыя захавала звесткі пра рукапісны «Лексікон» С. Буднага, падрыхтаваны паміж 1560—1593 гг., пра «Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста» (гл. **«Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста»**), пра рукапісны слоўнічак, змешчаны ў супрасльскім

«Ізмарагдзе» (1593) Івана Праскуры, і іншыя гласарыі. Гэтыя невялікія рукапісныя зборнікі падрыхтавалі глебу для з'яўлення першых друкаваных слоўнікаў. У 1596 г. як дадатак да выдадзенай у Вільні царкоўнаславянскай граматыкі быў надрукаваны «Лексіс» Лаўрэнція Зізанія (гл. **«Лексіс» Л. Зізанія**). Гэта быў першы друкаваны слоўнік усходніх славян. Усяго ў слоўніку Л. Зізанія 1061 слова.

Яшчэ паўнейшы «Лексікон славенаросkі»,выдадзены ў 1627 г. П. Бярындам (гл. **«Лексікон славенароскі» П. Бярынды**). Рэестр гэтага слоўніка налічвае 6982 словы.

Акрамя «Лексіса» Л. Зізанія і «Лексікона» П. Бярынды, усходнім славянам былі вядомы многія іншыя слоўнікі таго часу — «Сіноніма славенароская» (гл. **«Сіноніма славенароская»**), «Лексеконъ вкротцѣ албо рѣчникъ выборних речей к словенщизнѣ закритыхъ» (1660), рукапісны беларуска-лацінска-польскі слоўнік, які паслужыў крыніцай для маскоўскага «Лексикона треязычного...» (1704) Ф. П. Палікарпава-Арлова, польска-лацінска-грэчаскі слоўнік (1621) Г. Кнапскага, у складзе якога шмат беларускай лексікі, шматмоўныя «Номенклятуры (лексиконы)» (1700) І. Ф. Капіеўскага, «Лексікон» (1722) невядомага аўтара і інш. Выданні 16—18 ст. сведчаць аб наяўнасці распрацаваных лексікаграфічных традыцый у тагачасных усходнеславянскіх народаў. На жаль, гэтыя традыцыі беларускага і ўкраінскага народаў былі прымусова спынены ў пачатку 18 ст. ў выніку інтэнсіўнай паланізацыі. Іх адраджэнне пачалося толькі ў 19 ст. на зусім іншым лексічным матэрыяле і ў іншых сацыяльных умовах.

Беларускія слоўнікі 19 ст. працягвалі выконваць функцыю ранняга слоўнікавага перыяду — вывучэння нацыянальнай мовы. Менавіта гэтым абумоўлена з'яўленне дыялектных слоўнікаў К. Ф. Калайдовіча, Ф. С. Шымкевіча, Я. Чачота, С. П. Мікуцкага, Е. Р. Раманава, П. В. Шэйна і інш., а таксама гістарычных І. І. Грыгаровіча, І. І. Навіцкага, М. І. Гарбачэўскага, І. І. Насовіча і інш. Нарэшце, выданне лепшага беларускага слоўніка 19 ст.— «Слоўніка беларускай мовы» І. І. Насовіча (гл. **«Слоўнік беларускай мовы» І. Насовіча**), які ўвабраў больш за 30 тыс. мясцовых слоў, годна завяршыла гэты перыяд.

Наяўнасць у слоўніку І. І. Насовіча нарматыўнага, стылістычнага і шэрага граматычных параметраў дазваляе сцвярджаць, што гэта праца паклала пачатак перыяду развітай лексікаграфіі на Беларусі, асноўнай функцыяй якога з'яўляецца нармалізацыя і кадыфікацыя слоўнікавага складу нацыянальнай мовы, павышэнне моўнай культуры яе носьбітаў. У канцы 19 — пачатку 20 ст. з'яўляецца шэраг слоўнікаў, у якіх беларуская мова апісваецца з пункту гледжання тэрытарыяльнай, часавай і сацыяльнай дыферэнцыяцыі яе слоўнікавага складу. Так, вывучэнню рэгіянальнай лексікі Віцебшчыны прысвечаны дыялектныя слоўнікі (1890, 1892, 1895, 1911) М. Я. Нікіфароўскага. Паходжанне беларускіх тапонімаў асвятляецца ў слоўніку Ю. Трусмана «Этымалогія мясцовых назваў Віцебскай губерні» (1897). Больш за 700 рэестравых слоў налічвае слоўнік мовы беларускага фальклору, змешчаны ў кнізе С. Малевіча «Беларускія народныя песні» (1907). Першым слоўнікам аўтарскай мовы з'явіўся рукапісны «Слоўнік мовы Скарыны» (1890) П. У. Уладзімірава (у 1977—84 выйшаў двухтомны «Слоўнік мовы Скарыны» У. В. Анічэнкі).

Апісаннем сацыяльных жаргонаў і ўмоўных моў на Беларусі сталі слоўнікі Е. Р. Раманава (1890, 1890, 1901, 1912), у якіх падаецца лексіка дрыбінскіх шапавалаў, мінскіх і магілёўскіх жабракоў, «Руска-жабрацкі слоўнік» (1881) Ф. Сцяпуры. Своеасаблівым зводам беларускай аргатычнай лексікі можна лічыць «Слоўнік жабрачае гаворкі на Белай Русі» (1886) А. Ельскага. Трэба нагадаць і «Слоўнік дзіцячай мовы беларусаў» А. К. Сержпутоўскага, які быў перададзены аўтарам акадэміку А. А. Шахматаву, але застаўся ненадрукаваны.

Слоўнікавая праца на Беларусі актывізавалася пасля стварэння БССР і абвяшчэння беларускай мовы дзяржаўнай. На працягу 20-х гадоў было выдадзена каля сотні перакладных, тэрміналагічных, дыялектных і іншых слоўнікаў роднай мовы. Сярод іх такія грунтоўныя лексікаграфічныя выданні, як «Практычны расійска-беларускі слоўнік» (1924; 2 выд. 1926) М. Я. Байкова і М. І. Гарэцкага, «Беларуска-расійскі слоўнік» (1925) і «Расійска-беларускі слоўнік» (1928) Байкова і С. М. Некрашэвіча, 24 слоўнікавыя выпускі «Беларускай навуковай тэрміналогіі» (1922—30), «Віцебскі краёвы слоўнік» (1927) М. І. Каспяровіча, «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны» (1929) М. В. Шатэрніка і інш. Актыўна збіраліся словы мясцовых гаворак, распісваліся літаратурныя творы, стваралася навуковая тэрміналогія, што павінна было служыць падставай для выдання шматтомнага тлумачальнага слоўніка жывой беларускай мовы.

На жаль, сталінскія рэпрэсіі супраць беларускага народа вынішчылі амаль усіх айчынных мовазнаўцаў. У выніку развіццё беларускай лексі-




Перакладныя слоўнікі.




Беларускія лексікаграфічныя выданні.

кагарафіі фактычна было спынена. Працы, якія ў 30—50-х гг. выдаваліся на Беларусі, вызначаліся нізкім навуковым узроўнем, а ў тэарэтычным плане нярэдка былі крокам назад. Так, як прыклад відавочнага парушэння лексічных нормаў тагачаснай беларускай мовы можна згадаць «Руска-беларускі слоўнік» (1937) пад рэдакцыяй А. Александровіча.

Толькі ў канцы 50-х гадоў слоўнікавая праца ў Беларусі паступова актывізавалася. Выходзяць з друку «Руска-беларускі слоўнік» (1953) пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы і П. Глебкі і «Беларуска-рускі слоўнік» (1962) пад рэдакцыяй К. Крапівы, дыялектныя слоўнікі (вып. 1—3, 1959—70) Ф. М. Янкоўскага, «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (гл. **«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы»**), «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» (1970) І. К. Бялькевіча, «Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў» (1962) А. Л. Юрэвіча і іншыя лексікаграфічныя працы. У 60-я гады была распачата падрыхтоўчая праца па стварэнні слоўнікавых картатэк, на аснове якіх пазней былі выдадзены такія шматтомныя і грунтоўна распрацаваныя лексікаграфічныя даведнікі, як Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (гл. **Беларуская Савецкая Энцыклапедыя**), «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (т. 1—5, 1979—86), «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», «Гістарычны слоўнік беларускай мовы», «Тураўскі слоўнік» (т. 1—5, 1982—87) і інш.

Пералічаныя выданні склалі своеасаблівае ядро той сістэмы слоўнікаў, якая звычайна ствараецца для апісання і нармалізацыі лексічнага складу развітай літаратурнай мовы. У межах існуючай сістэмы слоўнікаў трэба назваць і такія спецыялізаваныя лексікаграфічныя даведнікі, як «Беларуская антрапанімія» (ч. 1—3, 1966—82) М. В. Бірылы, «Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне» (1968) Ф. М. Янкоўскага, «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі» (1970), «Марфемны слоўнік беларускай мовы» (1975; 2 выд. 1989) А. М. Бардовіча і Л. М. Шакуна, «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» (1976; 2 выд. 1993) М. К. Клышкі, «Частотны слоўнік беларускай мовы» (вып. 1—4, 1976—89) Н. С. Мажэйкі і А. Я. Супруна, «Украінска-беларускі слоўнік» (1980) В. П. Лемцюговай, «Асацыятыўны слоўнік беларускай мовы» (1981) А. І. Цітовай, «Беларуска-рускі паралексічны слоўнік-даведнік» (1985) пад рэдакцыяй А. Я. Міхневіча, «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» (1987) Г. У. Арашонкавай і В. П. Лемцюговай, «Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» (1988) М. П. Пазнякова і многія іншыя.

Асобнай старонкай у гісторыі лексікаграфіі з'яўляецца выданне беларускіх слоўнікаў за мяжой. Нешматлікую групу складаюць выданні, падрыхтаваныя беларускімі лексікографамі сумесна з замежнымі калегамі. Гэта «Падручны польска-беларускі слоўнік» (Варшава, 1962) пад рэд. А. Абрэмбскай-Яблонскай і М. В. Бірылы і двухтомны «Слоўнік славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі», (т. 1—2. Прага, 1977—79), у якім да 2266 беларускіх тэрмінаў падаюцца лексічныя адпаведнікі з 11 славянскіх і 3 заходнееўрапейскіх моў. Шырэй прадстаўлены слоўнікі, створаныя замежнымі даследчыкамі беларускай мовы. Лепшым з іх з'яўляецца «Слоўнік беларускай літаратурнай мовы ў 19 стагоддзі» (Лондан, 1973) А. Б. Макміліна, у якім лексіка беларускіх тэкстаў 19 ст. падаецца ў тэматычным парадку з адпаведнымі тлумачэннямі і частотнымі характарыстыкамі. У Варшаве выдадзены «Слоўнік найцяжэйшых выразаў у 5 і 6 тамах «Люду беларускага» М. Федароўскага» (1969), які падрыхтавала Г. Турская, і «Адваротны слоўнік беларускай мовы» (т. 1—4, 1988—89) А. Барташэвіча і І. Камендацкай.

Даволі вялікую групу складаюць слоўнікі, выдадзеныя беларускімі даследчыкамі ў даваеннай Літве. Сярод іх «Рады для эмігрантаў, каторыя едуць у Амерыку, а такжэ размовы беларуска-англіцкія» (1912) Я. Акаловіча, «Слоўнік геаметрычных і трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў» (1923) В. Ластоўскага і К. Душ-Душэўскага, «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (1924) В. Ластоўскага, «Падручны беларуска-польскі слоўнік» (1929) Б. Друцкага-Падбярэскага, «Слоўнік да мовы «Сцежкі-дарожкі» М. Зарэцкага» М. Піліпёнка, надрукаваны ў часопісе «Родная мова» (1930, № 5), і іншыя.

І, нарэшце, слоўнікі, створаныя выхадцамі з Беларусі (і іх нашчадкамі) і выдадзеныя ў ЗША і Канадзе. Гэта двухтомны «Клясычны грэцка-беларускі слоўнік» (ч. 1—2, 1983—85) Я. Пятроўскага, які змяшчае каля 20 тыс. рэестравых слоў, «Краёвы слоўнік Лагойшчыны» (1970) А. Варлыгі (больш за 8 тыс. мясцовых слоў тлумачыцца і ілюструецца прыкладамі з дыялектнага маўлення), «Ангельска-беларускі слоўнік» (1946; 2 выд. 1978) Я. Пятроўскага, «Беларуска-расійскі (вялікалітоўска-расійскі) слоўнік» (1990) Я. Станкевіча, «Беларуска-англійскі і англа-беларускі слоўнік», надрукаваны ў другім томе падручніка «Беларуская мова» (1978) В. Пашкевіч, і некаторыя іншыя выданні.

Сучасная слоўнікавая справа падзяляецца на тэарэтычную і практычную лексікаграфію. У сваю чаргу тэарэтычная лексікаграфія аб'ядноўвае слоўнікавую лексікалогію, якая вядзе пошук лексічных матэрыялаў (нататкі М. Г. Булахава, І. С. Козырава, Р. У. Краўчука, А. Я. Супруна і інш.), слоўнікавую тыпалогію (артыкулы В. К. Шчэрбіна і інш.), вучэнне аб элементах і структуры слоўніка і слоўнікавага артыкула (артыкулы М. Я. Байкова, С. М. Некрашэвіча, А. С. Аксамітава, А. І. Жураўскага, Л. Б. Рубцовай і інш.), вучэнне аб арганізацыі слоўнікавай працы (праграмы і інструкцыі па збіранні матэрыялаў і складанні картатэк), гісторыю лексікаграфіі, якая аналізуе развіццё слоўнікавай справы і асобных лексікаграфічных ідэй (працы М. Г. Булахава, І. К. Германовіча, М. Ф. Гуліцкага, А. А. Крывіцкага, М. Р. Судніка і інш.), навуковую крытыку слоўнікаў.

Практычная лексікаграфія ўключае штодзённую працу складальнікаў слоўнікаў, даведнікаў, энцыклапедый і іншых дапаможнікаў, якая ставіць сваёй мэтай назапашванне і захоўванне слоўнікавых матэрыялаў. Пераважная большасць навуковай інфармацыі, сабранай у межах практычнай лексікаграфіі, захоўваецца ў выглядзе слоўнікаў, індэксаў, слоўнікавых картатэк і г. д.

Размежаванне тэарэтычнай і практычнай лексікаграфіі адбылося яшчэ ў сярэдзіне 19 ст., калі з'явіліся першыя рэцэнзіі і гісторыка-тэарэтычныя работы пра слоўнікі Л. Зізанія, П. Бярынды і інш. Развіццё слоўнікавай справы паглыбіла гэту дыферэнцыяцыю. У апошні час сярод лексікографаў пашыраецца думка аб стварэнні Машыннага фонду беларускай мовы, які будзе змяшчаць усе звесткі з практычнай і тэарэтычнай лексікаграфіі, а таксама неабходную інфармацыю з суседніх лінгвістычных дысцыплін — лексікалогіі, фразеалогіі, тэрміналогіі, дыялекталогіі, анамастыкі і інш. Ён не толькі будзе ўтрымліваць інфармацыю пра слоўнікавы склад нашай мовы, але і выдаваць звесткі пра кожнае слова. Не маючы пакуль такога надзейнага і універсальнага памочніка, беларускія лексікографы спецыялізуюцца на складанні слоўнікаў пэўнага жанру або тыпу. Так, у межах дыялектнай лексікаграфіі, напрыклад, аб'ядноўваюцца амаль дзве сотні слоўнікаў, слоўнікавых матэрыялаў і картатэк. Больш за сотню слоўнікаў налічвае перакладная лексікаграфія, па некалькі дзесяткаў — гістарычная лексікаграфія, тэрмінаграфія, фразеаграфія і іншыя галіны слоўнікавай справы.

Такім чынам, беларуская лексікаграфія прайшла ў сваім развіцці складаны шлях. Былі на ім і ўзлёты, і падзенні. У канчатковым жа выніку ўсе існуючыя слоўнікі — ад першых рукапісных гласарыяў да найноўшых машынных канкардансаў (слоўнікаў цытат) — раскрываюць нам таямніцы

роднага Слова, дзякуючы якому мы так імкліва пазнаем Сусвет.

*Літ.:* Щерба Л. В. Опыт общей теории лексикографии // Щерба Л. В. Языковая система и речевая деятельность. Л., 1974; Суднік М. Р. Гісторыя ўзнікнення і этапы развіцця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 4; Гуліцкі М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1978; Німчук В. В. Староукраїнська лексикографія в її зв'язках з російською та білоруською. Київ, 1980; Садоўскі П. Час одуму // Полымя. 1986. № 5; Лобан М. Пяць раніц тыдня: Эсэ, асацыяцыі, артыкулы. Мн., 1984; Щербин В. К. Вселенная в алфавитном порядке: Словари — вчера, сегодня, завтра. Мн., 1987; Морковкин В. В. Об объеме и содержании понятия «теоретическая лексикография» // Вопр. языкознания. 1987. № 6.

*В. К. Шчэрбін.*

## ЛЕКСІКАЛОГІЯ

Лексікалогія (ад грэч. lexikós які адносіцца да слова і lógos вучэнне) — гэта навука пра слоўнікавы склад мовы. Неабходнасць збірання і сістэматычнага вывучэння лексікі роднай мовы была асэнсавана беларускімі вучонымі даўно. Яшчэ на пачатку 19 ст. ў Віленскім універсітэце былі распрацаваны праграмы збірання матэрыялаў жывой мовы народаў заходняй часткі тагачаснай Расіі. На заклікі віленскіх вучоных адгукнуліся многія беларускія інтэлігенты, студэнты універсітэта, сярод іх па зборах моўнага багацця беларусаў асабліва вылучыўся Ян Чачот. Асобныя групы мясцовых слоў (назвы збожжа, дрэў, звяроў, рыб, птушак і г. д.) вывучаліся і раней (Мейер А. Описание Кричевского графства или бывшего староства 1786 года // Могилёвская старина: Сб. статей. 1901. Вып. 2. С. 86—137). Найбольш актыўна лексікалагічная праца на Беларусі разгарнулася менавіта на пачатку 19 ст. па ініцыятыве Віленскага і Маскоўскага універсітэтаў і Расійскай акадэміі навук. У перыядычных выданнях былі надрукаваны цікавыя лексікалагічныя артыкулы і падборкі беларускіх слоў, сабраныя такімі славутымі фалькларыстамі і этнографамі, як П. Бabроўскі, А. Багдановіч, Я. Баршчэўскі, П. Бяссонаў, З. Даленга-Ходакоўскі, М. Дзмітрыеў, М. Доўнар-Запольскі, Р. Зянькевіч, А. Кіркор, К. Машынскі, М. Нікіфароўскі, Ч. Пяткевіч, І. Сербаў, А. Сержпутоўскі, М. Федароўскі, П. Чубінскі, І. Шыдлоўскі, П. Шэйн, М. Янчук і інш., а таксама такімі мовазнаўцамі, як І. Грыгаровіч, Я. Карскі, С. Мікуцкі, І. Насовіч, Е. Раманаў, П. Шпілеўскі і інш.

Менавіта іх лексікалагічныя артыкулы, нататкі, рукапісныя запісы беларускага слоўнага матэрыялу далі падставу С. М. Некрашэвічу яшчэ ў 1925 г. сцвярджаць, што «мінула ўжо роўна сто год, як распачалася ў нас на Беларусі слоўнікавая праца» (Полымя. 1925. № 5. С. 164). Пасля стварэння БССР і надання беларускай мове статуса дзяржаўнай, поруч з традыцыйным вывучэннем мясцовай, рэгіянальнай лексікі пачынаецца даследаванне лексічных асаблівасцей мовы мастацкай літаратуры, а таксама стварэнне і сістэматызацыя тэрміналагічнай лексікі. Паяўляюцца тэарэтычныя артыкулы па лексікалогіі Я. Карскага, С. Некрашэвіча, М. Байкова, П. Бузука, Я.Ваўка-Левановіча, М. Каспяровіча і інш. Імклівае развіццё беларускай лексікалагічнай навукі ў даваенны час было перапынена беспадстаўнымі рэпрэсіямі супраць лепшых яе прадстаўнікоў. Аднаўленне ж лексікалагічнай традыцыі ў беларускім мовазнаўстве адбывалася толькі ў канцы 1950—80-х гадоў, пасля апублікавання манаграфій М. І. Крукоўскага, А. М. Булыкі, А. Я. Баханькова і іншых. Акрамя таго, вырашэнню шматлікіх праблем сучаснай лексікалагічнай тэорыі шмат у чым садзейнічала выданне разнатыпных беларускіх слоўнікаў (перакладных, дыялектных, тлумачальных, тэрміналагічных і іншых).

Сёння беларуская лексікалогія — добра распрацаваны раздзел мовазнаўства са шматлікімі адгалінаваннямі, у межах якога аб'ядноўваюцца сотні навуковых прац. Да яе галоўных праблем звычайна адносяцца праблемы слова, яго месца сярод іншых адзінак мовы, лексічнага значэння і лексіка-семантычнай сістэмы мовы, значэння і паняцця, суадносін і ўзаемадзеяння лексічнага і граматычнага значэнняў у слове, спосабаў тлумачэння значэння, аманіміі і сінаніміі і іншыя. У апошні час да пералічаных праблем далучыліся задачы вывучэння спалучальнасці і частотнасці лексічных адзінак, пытанні семантычнай дэрывацыі, праблемы лексічнай сістэмнасці, пільная патрэба ў разнастайных ідэаграфічных апісаннях беларускай лексікі і інш. Аднак, як і раней, дакладнае тлумачэнне значэння слова з'яўляецца самаю цяжкаю працаю для лексіколага.

Навука пра слоўнікавы склад мовы аб'ядноўвае некалькі галін. Агульная лексікалогія разглядае самыя важныя праблемы кожнай нацыянальнай мовы. Прыватная лексікалогія (напрыклад, беларуская лексікалогія, англійская лексікалогія і г. д.) вывучае лексіку канкрэтнай мовы. Апісальная, або сінхранічная, лексікалогія даследуе слоўнікавы склад пэўнай мовы ў дакладна вызначаных храналагічных рамках. Толькі на працягу дастаткова кароткага часавага прамежку можна гаварыць пра адначасовае існаванне самых розных лексічных адзінак (лексіка-семантычных варыянтаў слова, слоў, лексіка-семантычных груп, палёў і г. д.) з усімі адносінамі паміж імі ў межах адзінай лексіка-семантычнай сістэмы нацыянальнай мовы. Гістарычная, або дыяхранічная, лексікалогія вывучае гісторыю асобных слоў, груп слоў і нават цэлых лексічных пластоў (лексіка кніжная, ваенная, гандлёвая і г. д.), а таксама шляхі змяненняў асобных значэнняў шматзначных слоў. Вельмі блізкая да гістарычнай этымалагічная лексікалогія высвятляе паходжанне асобных слоў.

У залежнасці ад метадаў часам яшчэ вылучаюцца: структурная лексікалогія — пры апісанні лексікі абапіраецца на тэорыю семантычнага поля; супастаўляльная, або параўнальная, лексікалогія даследуе лексіку дзвюх і больш розных моў адначасова; функцыянальная лексікалогія — розныя групы слоў апісвае з улікам іх функцый у маўленні; дыхатамічная лексікалогія вывучае лексіку шляхам выяўлення бінарных рознатыповых апазіцый паміж словамі мовы і некаторыя іншыя кірункі сучаснай лексікалогіі.

На дыферэнцыяцыі розных галін і кірункаў лексікалагічнай навукі адбіліся адрозненні паміж разрадамі слоў паводле сферы іх ужывання. Адна з галоўных задач сучаснай беларускай лексікалогіі — выпрацоўка лексічных норм літаратурнай мовы, якія даволі істотна адрозніваюцца ад традыцый і правіл народна-дыялектнага і прастамоўнага словаўжывання, а таксама ад норм прафесійнага і навуковага тэрмінаўжывання. Таму ў сучаснай беларускай лексікалогіі вылучаюцца нарматыўная лексікалогія (вывучае агульнаўжывальную лексіку і нормы яе выкарыстання ў маўленні); дыялектная лексікалогія (даследуе мясцовую, рэгіянальную лексіку і занатоўвае яе ў шматлікіх дыялектных слоўніках, дыялекталагічных атласах, лексікалагічных зборніках і г. д.); тэрміналагічная лексікалогія (займаецца распрацоўкай, сістэматызацыяй і уніфікацыяй тэрмінаў, прафесіяналізмаў і шматлікіх наменклатурных наватвораў).

Лексікалогія, з яе ўвагай да лексічнай семантыкі, цесна паяднана і развіваецца паралельна з лексікаграфіяй (гл. **Лексікаграфія**). Высокі ўзровень беларускіх лексікалагічных даследаванняў з'яўляецца асновай падрыхтоўкі разнастайных слоўнікаў.

Пастаяннае ўзаемадзеянне лексікалогіі з дзесяткамі іншых мовазнаўчых дысцыплін пры даследаванні слова як цэнтральнай адзінкі мовы садзейнічае яе ўзбагачэнню шматлікімі прыёмамі і метадамі лінгвістычнага аналізу. На сённяшні дзень беларускія лексіколагі выкарыстоўваюць у сваіх даследаваннях дыстрыбуцыйны, кампа-

нентны, кантэкстуальны, лексіка-статыстычны, логіка-паняційны, параўнальна-гістарычны, псіхалінгвістычны, сістэмна-структурны, супастаўляльна-тыпалагічны, функцыянальны і іншыя дакладныя і аб'ектыўныя метады.

*Літ.:* Байкоў М. Я. Слоўнікавая праца ў беларускай мове // Адраджэнне. Мн., 1922. Сш. 1; Некрашэвіч С. М. Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы // Полымя. 1925. № 5; Крукоўскі М. І. Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову. Мн., 1958; З жыцця роднага слова: Лексікал. зб. Мн., 1968; Беларуская лексікалогія і этымалогія. Мн., 1968; Лексікалогія і граматыка. Мн., 1969; Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970; З народнага слоўніка. Мн., 1975; Методы изучения лексики. Мн., 1975; Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мн., 1980; Сучасная беларуская літаратурная мова. Лексікалогія. Фразеалогія. Лексікаграфія. Фразеаграфія. Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. 2 выд. Мн., 1984; Красней В. П., Лазоўскі У. М., Шчарбакова І. М. Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фразеалогія. Мн., 1984; Плотников Б. А., Трайковская В. Ф. Дихотомическая лексикология. Мн., 1989.

*В. К. Шчэрбін.*

## ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНАЯ СІСТЭМА МОВЫ

Лексіка-семантычная сістэма мовы — гэта сукупнасць уласцівых гэтай мове лексічных адзінак (слоў, асобных значэнняў слоў, груповак слоў і іх значэнняў, лексіка-семантычных катэгорый, семантычных палёў і інш.) з усімі сувязямі і адносінамі паміж імі.

Сістэмны характар сувязей паміж словамі пэўнай мовы лінгвісты адзначылі даўно. Але толькі ў 50-х гадах 20 ст. акадэмік В. У. Вінаградаў прапанаваў тэрмін «лексіка-семантычная сістэма мовы» для абазначэння мноства разнастайных лексічных адзінак мовы з сувязямі і адносінамі паміж імі. Ён пісаў: «Кожны раз, калі новае значэнне ўключаецца ў лексічную сістэму мовы, яно ўступае ў сувязь і ва ўзаемаадносіны з іншымі элементамі складанай і разгалінаванай структуры мовы. Толькі на фоне лексіка-семантычнай сістэмы мовы, толькі ў сувязі з ёй вызначаюцца межы слова як складанай і разам з тым цэласнай моўнай адзінкі, якая аб'ядноўвае ў сабе шэраг форм, значэнняў і словаўжыванняў» (Виноградов В. В. Основные типы лексических значений слова // Вопросы языкознания. 1953. № 6. С. 5). Паступова ў мовазнаўстве пункт гледжання на слова як адасобленую і самадастатковую адзінку мовы пачаў саступаць месца больш сучаснаму погляду на слова як адзінку лексіка-семантычнай сістэмы мовы.

Яшчэ і сёння сярод мовазнаўцаў няма поўнай згоды адносна таго, што трэба разумець пад лексіка-семантычнай сістэмай мовы і як яе даследаваць. Напрыклад, у якасці структурнай асновы лексіка-семантычнай сістэмы мовы адны даследчыкі разглядаюць асноўны слоўны фонд, іншыя — сістэматызацыю слоў па часцінах мовы. У сваю чаргу, да асноўных вымярэнняў (восей) лексіка-семантычнай сістэмы некаторыя мовазнаўцы адносяць сінтагматыку, парадыгматыку і дэрыватыку, іншыя — антанімію (гл. **Антанімія**), сінанімію (гл. **Сінанімія**), аманімію (гл. **Аманімія**) і полісемію (гл. **Полісемія**). Увогуле ж пад лексіка-семантычнай сістэмай мовы адны даследчыкі разумеюць мноства лексіка-семантычных варыянтаў слоў, іншыя ж лічаць, што тэрмін «лексіка-семантычная сістэма» паказвае, што ў мове аб'ядноўваюцца два ўзроўні: лексічны з гранічнай моўнай адзінкай — словам і семантычны з гранічнай моўнай адзінкай — лексіка-семантычным варыянтам слова.

Суіснаванне ў межах сучаснага мовазнаўства розных пунктаў гледжання на сутнасць лексіка-семантычнай сістэмы мовы дазваляе выкарыстоўваць розныя метады і крытэрыі класіфікацыі слоў паводле іх сэнсавай блізкасці. Гэта садзейнічае ўсебаковаму апісанню слоўнікавага складу мовы. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова разгледзець сістэмныя сувязі такога, напрыклад, шматзначнага слова, як *жыццё*, з іншымі словамі і лексічнымі групоўкамі нашай мовы.

Так, поруч з такімі шырокаўжывальнымі словамі, як *барада, вада, вечар, воля, вясна, жыта, зямля, маці, рука, чалавек* і інш., слова *жыццё* ўваходзіць у асноўны слоўнікавы фонд нашай мовы, які надае ёй устойлівасць. Паводле ж сваіх лексіка-граматычных асаблівасцей слова *жыццё* аб'ядноўваецца з многімі тысячамі іншых беларускіх слоў у межах такой часціны мовы, як назоўнік. У сваю чаргу «суседзямі» слова *жыццё* ў разнастайных пісьмовых і вусных тэкстах часцей за іншыя выступаюць: прыметнікі *багатае, бесклапотнае, будзённае, бурнае, вясковае, галоднае, гарадское, горкае, доўгае, забяспечанае, казачнае, кароткае, манатоннае, новае, працоўнае, сабачае, свабоднае, слаўнае, сытае, сямейнае, цяжкае, чэснае, шматпакутнае, шчаслівае, шэрае* і інш.; назоўнікі *год, канец, лад, мэта, пачатак, радасць, расліна, сярэдзіна, чалавек* і інш.; дзеясловы *ахвяраваць, любіць, пражыць, прысвяціць, радавацца, рызыкаваць, скараціць, скончыць, шкадаваць, уратаваць* і інш.

Калі ж мы паспрабуем вызначыць тып семантычных сувязей, якімі слова *жыццё* яднаецца з іншымі словамі ў тэксце, то найперш павінны будзем адзначыць адносіны сінаніміі са словамі *быт, быццё, век, лёс, рэчаіснасць* і інш., адносіны антаніміі са словам *смерць*, параніміі са словам *жыціе* і інш. Шырока звязваецца слова *жыццё* з рознымі лексічнымі групоўкамі і семантычнымі палямі па лініі полісеміі («Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» фіксуе для гэтага слова 9 асобных значэнняў). Напрыклад, паводле свайго першага значэння (асобная форма руху матэрыі) яно адносіцца да лексіка-семантычнай групы назваў форм існавання матэрыі, паводле другога (фізіялагічны стан усяго жывога ад зараджэння да смерці) — да прадметна-тэматычнай групы назваў стану чалавека, паводле трэцяга (час існавання каго-небудзь, век) — да семантычнага поля часу і г. д.

Нарэшце, паводле сваіх словаўтваральных сувязей слова *жыццё* аб'ядноўваецца з аднакарэннымі словамі *ажыццяўленне, жыццезабеспячэнне, жыццелюбівы, пажыццёва, жыццесцвярджальнасць, нажыцца, жыццяўстойлівы, выжыць, жыццё-быццё, зжыць, зжыцца, жыццёвы, жыццядайны, жыццядзейнасць, разжыцца, жыццяздольнасць, жыццяздольны, жыццялюб, жыццялюбка, жыццялюбны, жыццялюбства, жыццяпіс, жыццярадасна, пережыць, жыццярадасны, жыць* і інш. Як бачым з пераліку «суседзяў», слова *жыццё* па лексіка-семантычнай сістэме мовы ўваходзіць у самыя розныя лексічныя групоўкі і семантычныя палі. Такім чынам лексічны матэрыял арганізуецца ў сістэму, відаць, дзякуючы шматразоваму паслядоўнаму падзелу слоў на групы, у якіх пераплятаюцца розныя чляненні. Калі ж абстрагавацца ад розных класіфікацый слоў паводле іх сэнсавай блізкасці, то трэба адзначыць наступнае. Паколькі цэнтральнай адзінкай мовы з'яўляецца слова, то і сістэмнае апісанне лексікі павінна грунтавацца ў першую чаргу на асноўных семантычных якасцях слова. Да іх звычайна адносяць здольнасць слова абазначаць прадметы, з'явы, падзеі (намінацыйная вартасць) і здольнасць слова ўступаць у лексічныя сувязі з іншымі словамі ў маўленчай плыні (сінтагматычная вартасць).

У адпаведнасці з гэтымі якасцямі слова ў межах слоўнікавага складу любой мовы вылучаюцца 2 асноўныя тыпы сістэм: намінатыўная лексічная сістэма, якая максімальна суадносіцца з пазамоўнай рэчаіснасцю і не выводзіцца з сінтагматычных структур, і камунікатыўная лексічная сістэма, якая ў працэсе маўленчай дзейнасці цесна звязваецца з элементамі іншых частак агульнай моўнай сістэмы і цалкам выводзіцца з сінтагматычных структур (паводле А. Я. Міхневіча). Аб'яднанне намі-

натыўнай і камунікатыўнай лексічных сістэм у межах больш вялікай лексіка-семантычнай сістэмы мовы якраз і надае ёй галоўную адметнасць: семантычныя сувязі паміж словамі ўтвараюцца тут пад уздзеяннем як экстралінгвістычных, пазамоўных, так і чыста ўнутрымоўных фактараў.

Ад фаналагічнай і граматычнай сістэм нашай мовы лексіка-семантычная сістэма адрозніваецца шэрагам прыкмет: яна аб'ядноўвае непараўнальна большую колькасць элементарных адзінак; мае значна больш складаную структурную арганізацыю, бо ступень сістэмнасці розных яе частак істотна адрозніваецца і ў асобных перыферыйных пластах лексікі часам набліжаецца да нуля; вызначаецца выключнай рухомасцю і гістарычнай зменлівасцю свайго складу; з'яўляецца адкрытай для знешніх, пазамоўных уплываў у адрозненне ад больш замкнёных фаналагічнай і граматычнай сістэм мовы.

Лексіка-семантычную сістэму мовы вывучаюць спецыялісты па ідэаграфіі (гл. **Ідэаграфія**), семасіялогіі (гл. **Семасіялогія**), анамасіялогіі (гл. **Анамасіялогія**), лексікалогіі (гл. **Лексікалогія**), лексікаграфіі (гл. **Лексікаграфія**), граматыцы (гл. **Граматыка**), стылістыцы (гл. **Стылістыка**). У прыватнасці, у галіне ідэаграфіі і лексікаграфіі, каб больш дэталёва апісаць разнастайныя семантычныя сувязі паміж словамі ў межах лексіка-семантычнай сістэмы мовы, ствараюцца ідэаграфічныя, тэматычныя і асацыятыўныя слоўнікі, інфармацыйна-пошукавыя тэзаўрусы, слоўнікі сінонімаў, антонімаў, амонімаў, паронімаў, спалучальнасці слоў, эпітэтаў і інш.

*Літ.:* Уфимцева А. А. Слово в лексико-семантической системе языка. М., 1968; Міхневіч А. Я. Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы. Мн., 1976; Виноградов В. В. Лексикология и лексикография. Избр. труды. М., 1977. *В. К. Шчэрбін.*

## «ЛЕКСІКОН СЛАВЕНАРОСКІ» П. БЯРЫНДЫ

У 16—17 ст. на Беларусі і Украіне карысталіся кнігамі пераважна на царкоўнаславянскай мове. На ёй выкладалі ў школах, вывучалася яна і як асобны прадмет. Але для шырокага кола чытачоў многія царкоўнаславянскія словы і іх формы былі незразумелыя. Выкладчыкам і вучням брацкіх школ і наогул пісьменным людзям вельмі патрэбен быў перакладны слоўнік. Такія слоўнікі пачынаюць з'яўляцца ў 2-й палове 16 ст. З той пары да нас дайшоў рукапісны слоўнік невядомага аўтара «Лексись съ толкованіемъ словенскихъ мовъ просто» (гл. **«Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста»**).

У 1596 г. Лаўрэнцій Зізаній, на той час выкладчык брацкай школы ў Вільні, выдаў першы на Беларусі



П. Бярында. «Лексікон...» (вокладка). Куцейна. 1653.

і Украіне буквар «Наука ко читаню и розумеię писма словенского» з малюнкамі ў тэксце і слоўнікам, які называўся «Лексис сиречь реченія въкратъце, събранны и из словенскаго языка на простый рускій діялектъ истолкованы». У гэтым першым на Беларусі і Украіне друкаваным слоўніку было перакладзена 1061 царкоўнаславянскае слова.

Але адной з найлепшых, самых поўных на той час прац усходнеславянскай лексікаграфіі стаў «Лексіконъ славеноросскій и именъ тлъкованіе» (Кіеў, 1627; 2 выд.— друкарня Куцеінскага манастыра каля Оршы, 1653) Памвы Бярынды [? — 13(23).7. 1632] — выдатнага дзеяча ўкраінскай і беларускай культуры і навукі 17 ст., таленавітага вучонага-лексікографа, які валодаў украінскай, беларускай, рускай, польскай, стараславянскай, грэчаскай, лацінскай, яўрэйскай і многімі іншымі мовамі, паэта, аўтара сілабічных вершаў, перакладчыка, друкара і гравёра. «Лексікон» П. Бярынды змяшчае каля 7000 слоўнікавых артыкулаў. У ім 2 часткі — царкоўнаславянская і ўкраінска-беларуская, перакладны слоўнік іншамоўных слоў, агульных назваў і ўласных імёнаў, што сустракаліся ў тагачаснай літаратуры, найперш у Бібліі. Такім чынам, ён мае рысы тлумачальнага, энцыклапедычнага і этымалагічнага слоўнікаў. Асноўны матэрыял аўтар сабраў з друкаваных і рукапісных царкоўнаславянскіх кніг. Але ён выкарыстаў і шмат даступных яму лексікаграфічных прац (напрыклад, «Лексіс» Л. Зізанія), кнігі Максіма Грэка, візантыйскага аўтара 15—16 ст. Мануіла Рытара, а таксама глосы (тлумачэнні на палях) з выданняў Ф. Скарыны, усходнеславянскія азбукоўнікі, заходнееўрапейскія лексікаграфічныя выданні.

Рэестр 1-й часткі слоўніка П. Бярынды складаюць царкоўнаславянскія і старарускія словы, сустракаюцца таксама словы з польскай, чэшскай, грэчаскай і лацінскай моў. Шмат слоў беларускіх і ўкраінскіх. Наяўнасць іх тут сведчыць, што дзеячы культуры і навукі 17 ст. не заўсёды маглі правесці мяжу паміж царкоўнаславянскаю і жывою моваю, бо царкоўнаславянская мова зазнала значны ўплыў жывой народнай мовы, асабліва літаратурнай, якой карысталіся на беларускіх і ўкраінскіх землях у Вялікім княстве Літоўскім. Абсалютная большасць 2-й часткі слоўніка — словы іншамоўнага паходжання.

Вось некаторыя прыклады перакладу з «Лексікона» П. Бярынды: *алканіе — прагненье ѣдла, ѣсти хотене, чвтье голоду; баня — крщеніе, ванна, лазня, мылня; благодару — дякую; благолепіе — оздоба, лепота, окраса, пякность, краса наоздобнейша, пристойность; велеречіе — безмерное блекотане, и тыж о великихъ речах мовлене, велможность словъ; въсуе — дармо, надаремне, марне; да будетъ — нехай бы такъ было, нехай так будет; мзда — заплата, нагорода; предваряю — предпостизаю, чекаю, упережаю; препона — перешкода, забороненье.*

Як бачым, у «Лексіконе» рэестравае слова перакладаецца адным або некалькімі адпаведнікамі: *кровъ — домъ, стеля, покрыте, драгаръ, дахъ, намет.* Часамі пасля рэестравага слова ідзе тлумачэнне, а затым пераклад: *птенецъ — дитя каждого птаха, голопупя, потятко; любоmрудіе — працовитость, коханьеся в праци.* Часам замест перакладу аўтар дае толькі тлумачэнне значэння слова, нярэдка энцыклапедычнага характару. Напрыклад: *кречет — птах, которым пардвы убиваютъ, и иное птаство, подобенъ соколу, але белъ ввес толко з под горля шаряв мало.* Бярында прыводзіць і тлумачыць фразеалагізмы царкоўнаславянскай мовы: *рещи глаголъ — мовити слово; извожду въ позоръ — посрамляю, погнабляю.*

Бярында стаў уводзіць у лексікаграфічную практыку граматычныя і акцэнталагічныя паметы. Перавагаю яго слоўніка над папярэднімі было ўказанне на час, трыванне, лік дзеясловаў, а таксама на пераноснае ўжыванне слова. Паметы *мет(афарычнае), образне, инinduce* паказваюць на пераноснасць значэння: *влъна — валъ на воде, волна, образне смятеніе.*

У «Лексіконе» даволі паслядоўна прастаўлены націскі. Гэта — каштоўны матэрыял для гістарычнай акцэнталогіі беларускай і ўкраінскай моў. Цвёрдае *р* сустракаецца не толькі на канцы складоў, але і перад галоснымі: *пісаръ, гончаръ, присмотруймося, веровки, крукъ.* Шмат у слоўніку прыкладаў зацвярдзення шыпячых:

*отчичъ, родичъ, роскошъ, помочъ, мышъ* і інш.

Праца П. Бярынды — важная крыніца вывучэння слоўнікавага складу беларускай і ўкраінскай моў 17 ст., іх сінанімікі, словаўтварэння, фразеалагічных спалучэнняў і г. д. Яна мае вялікую каштоўнасць і таму, што ў ёй раскрываецца змест, які ўкладалі ў царкоўнаславянскія словы культурныя дзеячы 16—17 ст. на Беларусі і Украіне, з'яўляецца добрым дапаможнікам для чытання беларускіх, украінскіх, рускіх помнікаў, пісаных царкоўнаславянскаю моваю.

Нягледзячы на шматлікія перашкоды, на зайздрасць некаторых сучаснікаў, Памва Бярында ўсё ж спадзяваўся, што яго трыццацігадовая праца будзе па-сапраўднаму ацэнена нашчадкамі, таму пісаў: «На жадныи перешкоды за́висти не дбаючи и овшемъ оуфа́ючи, же за́зрость ущипливаа згаснетъ, а праца моя тая у потомныхъ вдячность ѿнесе́тъ, на́звиска ре́чїй и имена власныи людей, горъ, па́горкѡвъ, лѣсѡвъ, рѣкъ и розныхъ оурочищъ розмаитыхъ діалектѡвъ, сир(ского), ха(лдейского), ев(рейского), греч(еского), лат(инского) и власного нашого славенскаго, въкупу; хоть то не такою ꙗка́а бы нале́жала широ́костю, згрома́дивши, и тую працу мою... лексіконъ, по словенску реченникъ, а по латінѣ дікціонаръ назвавши, благословенїемъ страшихъ моихъ, працею усердною и коштомъ моим, ѿто типомъ на свѣтъ выпущаю».

Сучаснікі належным чынам ацанілі працу П. Бярынды, перавыдаўшы яго «Лексікон» у Куцейне праз 27 гадоў пасля яго першага кіеўскага выдання. Пазней слоўнік П. Бярынды перадрукоўваў І. П. Сахараў у «Сказаннях рускага народа» (Спб., 1849. Т. 2, кн. 5), урыўкі паводле куцеінскага выдання 1653 г. змясціў Ф. І. Буслаеў у «Гістарычнай хрэстаматыі царкоўнаславянскай і старажытнарускай моў» (М., 1861). Фотамеханічным спосабам «Лексікон» П. Бярынды ўзноўлены выдавецтвам АН УССР (Кіеў, 1961, падрыхтоўка тэксту і ўступны артыкул В. В. Німчука).

*Літ.*: Питання східно-слов'янської лексикографії XI—XVII ст.: Матеріали симпозіуму. Київ, 1979; Німчук В. В. Памво Беринда і його «Лексіконъ славеноросскї и именъ тлъкованїе» // Лексикон словенороський Памви Беринди. Київ, 1961; Сенатович П. Причинки до життепису Памва Беринди // Мовознавство. 1970. № 6; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды: Биобиблиогр. словарь. Т. 1. Мн., 1976.

*І. У. Саламевіч.*

## «ЛЕКСІС З ТАЛКАВАННЕМ СЛАВЕНСКІХ МОЎ ПРОСТА»

«Лексисъ съ толкованіемъ словенскіх мовъ просто» (908 няпоўных тлумачальных пар) — адзін з самых ранніх помнікаў старабеларускай лексікаграфіі. Яго з'яўленне датуецца 2-й паловай 16 стагоддзя. У 1884 г. архімандрыт Амфілохій адшукаў рукапіс слоўніка, які быў укладзены ў «Астрожскую біблію» Івана Фёдарава і, перавёўшы яго на графіку 19 ст., апублікаваў у матэрыялах «Чтения в обществе истории и древностей российских при Московском университете».

Пытанне пра аўтарства «Лексіса» дасюль астаецца адкрытым. Выказвалася думка (В. В. Німчук, М. Б. Батвіннік), што аўтарам слоўніка мог быць Л. Зізаній. Па многіх прыкметах, як, напрыклад, вытлумачэнне ўласных імён і геаграфічных назваў, «Лексіс» складаўся як прыточнік да нейкага канкрэтнага тэксту старадрукавага выдання. Таму да яго складання мог мець дачыненне І. Фёдараў ці нехта з выкладчыкаў Астрожскай акадэміі.

«Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста» — гэта адна з першых ва ўсходніх славян спроб тлумачальна-перакладнога слоўніка. Рэестравую частку «Лексіса» складаюць царкоўнаславянскія і старажытнарускія словы (з пэўнымі запазычаннямі з грэчаскай, лацінскай і інш. моў), тлумачальна-перакладную — старабеларуская лексіка. Беларуская лексічная аснова яго амаль не даследавана. А тут многа старажытных адпаведнікаў нашай сённяшняй мове: *певень, нырки, щесливость, дьякование, зразумел, зопсованье, пожедание, парканъ, позычаю, киваюся, оповедание, надутость, горнецъ медяный, жартливый, кожный, цегла, кожухъ, недбалость, непотребный, примушаю, буселъ, норовъ, пилнование, заглядаю, палацъ, шкодникъ, войско, торба, гомонъ, скарбница, збан, справы, схавай, працую, утёкъ, вязни, выпущаю, сподеваюся, владность, надаремне, размаитыхъ.*

Знаёмства з старабеларускімі лексікаграфічнымі помнікамі дазваляе пераглядзець пытанне аб уплывах з заходнеславянскіх моў. Тое, што раней лічылася паланізмам, мы знаходзім у слоўніках Вялікага княства Літоўскага: у «Лексісе... проста» і «Лексісе» Л. Зізанія, у «Лексіконе славенароскім» П. Бярынды і «Сіноніме славенароскай», а аналагічныя, часам больш блізкія формы — у сербскай і чэшскай мовах. З апошняй найбольш цесна сутыкаўся Ф. Скарына ў сваёй перакладчыцкай дзейнасці, маючы перад сабою за ўзор чэшскую «Біблію» (1506 г.) на народнай мове.

Складальнікі слоўнікаў да з'яўлення «Лексіса... проста» лічылі сваёй задачай дапамагчы перапісчыкам у іх нялёгкай тэксталагічнай рабоце, аблегчыць карыстанне «свяшчэннымі кнігамі». Такім чынам, аўтар «Лексіса» не толькі ствараў дапаможнік пры вывучэнні царкоўнаславянскай мовы, але і ўпершыню паставіў перад сабой нацыянальна ўсвядомленую мэту — праз слоўнік далучыць вучняў брацкіх школ да простай народнай мовы.

«Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста» — прыклад пераходу ад гласарыя да помніка прыточнікава-азбукоўнікавага характару (*Апостол — посланникъ, Анна — благодать, Аданай — Господь, астра — звезда*).

У слоўніку спалучаны алфавітнае і гнездавое размяшчэнне слоў, што сведчыць пра валоданне аўтарам лексікаграфічнымі методыкамі таго часу. Звяртае на сябе ўвагу прадуманая сістэма тлумачэння: побач з сінанімічнымі (*вина — причина, житница — стодола, бисер — перла, благодать — ласка, блюдо — миса, риза — шата, число — личба*), апасродкаванымі (*благоденствие — добрый день, всеобразно — всѣмь шталтомь, геена — огненная мука*), шырока ўжываюцца энцыклапедычныя прыёмы сэнсавай і нават этымалагічнай інтэрпрэтацыі лексем (*жажду — прагну пити; количество — колико есть мѣрою и числомь; анагры — оселы або кони дикие; страсть — похоть злая или звода ілі утрапене или роспустная роскошь*).

У «Лексісе» назіраецца тэндэнцыя да выпрацоўкі новых прынцыпаў перакладу слоў, якія захаваліся ў лексікаграфіі да гэтага часу. Старажытнаруская лексема перакладаецца толькі адным словам, калі для перадачы яе ёсць адпаведнае старабеларускае слова (*щади — борони, хула — ганба, холмъ — пагорок, здолѣваю — перамагаю, совесть — сумленне, советник — радца, сокровище — скарбніца*). Пры наяўнасці двух і больш адпаведнікаў тлумачальныя адзінкі падаюцца ў паслядоўнасці ад больш блізкай па значэнні і шырэйшай па ўжыванні да менш блізкай па значэнні і больш вузкай па ўжыванні (*храбръ — сталый и моцный; прекаанне — сваръ, споръ, прервание мови; дебелъ — грубый, толстый; ветвие — голье, розки; врѣменникъ — лѣтописецъ, хроника*). «Лексіс» — не толькі адна з важных крыніц вывучэння слоўнікавага складу старабеларускай мовы, але і помнік, які адлюстроўвае працэс станаўлення беларускай лексікаграфіі, выпрацоўкі ёю спецыфічных прыёмаў тлумачэння, размяшчэння і падачы слоў. Ён служыць дапаможнікам пры чытанні тагачасных усходнеславянскіх кніг, напісаных на старабеларускім варыянце царкоўнаславянскай мовы.

Удалы вопыт складальніка «Лексіса з талкаваннем славенскіх моў проста» стаў узорам для пазнейшых лексікаграфічных прац старабеларускай мовы — «Лексіса» Л. Зізанія (гл. **«Лек-**

**сіс» Л. Зізанія**), «Лексікона» П. Бярынды (гл. **«Лексікон» П. Бярынды**), «Сінонімы славенароскай» (гл. **«Сіноніма славенароская»**).

*Публ.:* Старабеларускія лексіконы: «Лексисъ съ толкованіемъ словенскіх мовъ просто», «Лексис...» Л. Зізанія, «Синонима славенороссская». Мн., 1992.

*Літ.:* «Лексіс» Лаврентія Зизанія. Синоніма славеноросская. Київ, 1964; Німчук В. В. *Староукраїнська лексикографія в її зв'язках з російською та білоруською.* Київ, 1980; Яскевіч А. *Напісанае — застаецца* // ЛіМ. 1988. 14 кастр.

*А. А. Яскевіч.*

## «ЛЕКСІС» Л. ЗІЗАНІЯ

У 16 ст. на Беларусі пашыраецца лексікаграфічная распрацоўка мовы. Каля вытокаў яе стаяў Францыск Скарына, які на палях сваіх кніг тлумачыў незразумелыя рэлігійныя словы сродкамі тагачаснай беларускай мовы. Праўда, і да гэтага былі спробы задаволіць патрэбы чытачоў разнастайнымі прыточнікамі, азбукоўнікамі, «адвольнікамі», што дадаваліся да кніг і мелі тлумачальны характар. Вяршыняй гэтай работы стаў першы друкаваны «Лексис сиречъ реченїя въкратъце събранны и из словенскаго языка на простый рускій дїялектъ истолкованы Л. Z. (Лаўрэнціем Зізаніем)», выдадзены ў Вільні ў 1596 г. Ён быў зроблены як дадатак да кнігі аўтара «Наука ку читаню и розуменю писма словенского» — своеасаблівага буквара. Асноўнае прызначэнне «Лексіса» — распрацоўка царкоўнаславянскай мовы. Зізаній тлумачыць незразумелыя царкоўнаславянскія словы сродкамі «простай мовы», што давала магчымасць вучням брацкіх школ Беларусі і Украіны авалодваць тагачаснай літаратурнай мовай. У рэестравай частцы слоўніка 1061 слова, а ў тлумачальнай — больш як 2 тысячы.

Для поўнага раскрыцця лексічнага значэння загалоўнага слова Зізаній выкарыстоўваў многія крыніцы, пра што сведчаць спасылкі на творы М. Бельскага, Арыстоцеля, Іаана Залатавуснага, вытрымкі з Бібліі.

Зізаній імкнуўся размясціць усе словы ў алфавітным парадку, але найчасцей даваў гнёзды аднакарэнных: ***блюду,*** *стерегу;* ***блюдение,*** *стереженье;* ***врачую,*** *лечу;* ***врачеваніе,*** *лекарство, леченье;* ***врачество,*** *лекарство докторское;* ***врачба,*** *леченье;* ***врачебница,*** *дом, где лечат и тыж аптыка;* ***врач,*** *лекар, доктор.* Такая падача матэрыялу паказвала багатыя словаўтваральныя магчымасці мовы, разнастайнасць яе семантыкі.

Звычайна царкоўнаславянскае слова тлумачылася адным або некалькімі беларускімі адпаведнікамі: ***мелъ,*** *вапно и тыж крейда;* ***месть,*** *помста;* ***баснь,*** *казка, слово, байка;* ***бракъ,*** *женитва, веселье;* ***заря,*** *зоря, светлость;* ***житница,*** *стодола, клуня;* ***жизнь,*** *мешканье и тыж скарбъ,* *гроше.* Калі немагчыма было знайсці неабходны сінонім, Зізаній рабіў апісальнае тлумачэнне слоў: ***беззлобіе,*** *щирая доброть;* ***виновный,*** *тот, который ест чему причиною;* ***жернов ослій,*** *камень млынный, для того называется ослій, же ослами мелют.* У выпадках, калі лексікограф сутыкаўся з так званымі экзатызмамі — словамі, якія называлі рэаліі і паняцці з жыцця і быту іншых народаў, замест перакладу ён даваў толькі тлумачэнне значэння слова, нярэдка энцыклапедычнага характару: ***зеленичіе,*** *ест древо, которое лете и зиме зелено, подобное листье мает зелью, на котором чернице ягоды ростут;* ***сморщь,*** *оболок которы з неба спустившыся, воду з моря смокчет, и если корабль набегнет на тое местце, то и корабль з людьми порвет, а потом пустит и розобеть корабль;* ***онокентавр,*** *звер неякій, от головы як человек, а от ног як осел.* Спарадычна ўкладальнік слоўніка рабіў паметы, адкуль слова запазычана: ***елой,*** *по еврейску бог;* ***селеніе кидарское,*** *дом татарскій, иже есмь сруб, един на колесници, а другій в земли ископан;* ***кафолик,*** *по грецку съборны, по латине универсалис.* Пры неабходнасці аўтар адсылаў чытача да іншага рэестравага слова, ставячы памету *тое ж значит, што и:* ***гажденіе,*** *злореченіе, поганбенье. Тое ж значит, што і хуленье.*

«Лексіс» Л. Зізанія. 1596. Ліст 40.

У некаторых слоўнікавых артыкулах Зізаній пасля тлумачэння слова прыводзіў царкоўнаславянскія тэксты і фразеалагічныя спалучэнні, дзе ўжывалася загалоўнае слова: ***внешній,*** *надворний, зверхній, тогосветній. Яко же пишут* ***внешніи мудреци,*** *як пишут* ***тогосветные мудрецы.*** Зусім рэдка лексікограф прыводзіў этымалагічныя звесткі, напрыклад: ***синдон,*** *с тонкого полотна простирадло албо рантух. для того так названо же напервей в месте Сідоне почато тое робити.* Усе гэтыя тлумачэнні адлюстроўваюць агульны ўзровень тагачаснай лексікаграфічнай практыкі, сведчаць пра імкненне Зізанія як мага дакладней і паўней раскрыць сэнс рэестравага слова, яго семантычны аб'ём.

Загалоўныя словы пададзены ў пачатковай форме: іменныя часціны мовы — у назоўным склоне адзіночнага ліку, дзеясловы — у 1-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу. Зізаній амаль паслядоўна пазначаў націск, таму яго работа мае выключнае значэнне для гістарычнай акцэнталогіі.

Аўтар «Лексіса» ўмела адабраў са шматлікага матэрыялу найбольш характэрнае, тыповае. Пра гэта сведчыць вялікая колькасць лексем, што захавалі сваю прадуктыўнасць і ў сучаснай беларускай мове: *влада, зараз, затишье, глупство, ласка, ласкавы, людзкость, мова, миска, оборонца, скриночка, стодола, клуня, твар, фарба, страва, пильность* і іншыя. У «Лексісе» змешчана і вялікая колькасць усходнеславянскага моўнага матэрыялу, які можа быць выкарыстаны даследчыкамі гісторыі рускай і украінскай моў.

«Лексіс» — каштоўная крыніца вывучэння слоўнікавага складу беларускай мовы 16 ст., яе сінанімікі, сродкаў словаўтварэння, асноўных шляхоў пранікнення запазычанняў. Нягледзячы на тое, што беларуская лексіка «Лексіса» толькі часткова адлюстравала слоўнікавае багацце «простай мовы» 16 ст. і выкарыстоўвалася як сродак апісання (тлумачэння) царкоўнаславянскай мовы, а не як аб'ект даследавання, яна яскрава сведчыла пра магчымасці народнай мовы абслугоўваць патрэбы «краснага пісьменства».

Праца Зізанія — не толькі вынік усёй папярэдняй усходнеславянскай, і ў прыватнасці беларускай, лексікаграфічнай работы, але і наступны крок у яе развіцці. Гэта была першая ўдалая спроба абагульніць вопыт сваіх папярэднікаў у галіне лексікаграфіі, укласці і выдаць асобнаю кнігаю сістэматычны царкоўнаславянскі лексікон. Аўтар добра ўсведамляў свае задачы і паспяхова справіўся з імі. Пра гэта сведчыць тое, што «Лексіс» быў поўнасцю ўключаны ў «Лексікон» (Кіеў, 1627) Памвы Бярынды (гл. **«Лексікон славенароскі» П. Бярынды**).

*Публ.:* Старабеларускія лексіконы: «Лексисъ съ толкованіемъ словенскіх мовъ просто», «Лексис...» Л. Зізанія, «Синонима славенороссская». Мн., 1992.

*Літ.:* Суднік М. Р. *Гісторыя ўзнікнення і этапы развіцця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары* // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 4.

*Дз. Дз. Пайлавец.*

## ЛЕКСІЧНЫЯ НОРМЫ

На кожным моўным узроўні літаратурная норма мае пэўныя асаблівасці. Так, калі нормы фанетычнага і граматычнага ўзроўняў характарызуюцца дастатковай дакладнасцю, нават «жорсткасцю», лексічныя нормы менш выразныя, строгія. Складанасць вызначэння лексічнай нормы звязана з параўнальна свабодным выкарыстаннем розных лексічных сродкаў для выражэння аднаго і таго ж сэнсу.

У мовазнаўстве існуюць розныя спробы вызначэння лексічнай нормы. Часам пад ёй разумеюць патрабаванне выкарыстоўваць у мове толькі тыя словы, якія маюць статус літаратурных. Такі падыход азначае, што ў нарміраванай, літаратурнай мове не могуць ужывацца дыялектныя словы — такія, як *кукалуша* (літ. *чаромха*), *нойда* (літ. *часам*), *саўнечны* (літ. *сонечны*), а таксама прастамоўныя — тыпу *целяпацца* (літ. *павольна ісці*), і жаргонныя — напрыклад, *шыла* — нешта несапраўднае, фальшывае. Але ў такім выпадку ў паняцце лексічнай нормы не ўключаюцца такія істотныя характарыстыкі слова, як яго семантыка, сувязі з іншымі словамі ў мове, спалучальнасныя асаблівасці і інш.

Больш абгрунтаваным з'яўляецца азначэнне лексічнай нормы як правільнага выбару слова і яго ўжывання ў агульнавядомым значэнні і ў агульнапрынятых спалучэннях.

Нарматыўнасць словаўжывання залежыць не толькі ад удалага выбару слова, якое знешне дакладна адлюстроўвае прадмет або з'яву і рэгулярна ўзнаўляецца ў мове ў тым значэнні, у якім яно існуе ў моўнай сістэме і зафіксавана ў слоўніку, але і ад іншых яго ўласцівасцей. Так, кожнае слова мае пэўную грамадскую і эстэтычную ацэнку, якая можа быць звязана з традыцыяй ужывання, з асаблівасцямі паходжання, з моўнай практыкай аўтарытэтных мастакоў слова — вядомых празаікаў і паэтаў. Напрыклад, прыслоўі *ўроссып* і *ўрассыпную* супадаюць у беларускай мове і па значэнні, і па стылістычнай афарбоўцы. Але *ўрассыпную* не мае глыбокіх гістарычных і культурных традыцый ужывання і, з'яўляючыся запазычаннем з рускай мовы, па эстэтычных меркаваннях ацэньваецца ніжэй, чым *уроссып*. Не маюць станоўчай грамадскай ацэнкі і некаторыя з тых беларускіх слоў, што былі ўтвораны штучна. Шмат такіх утварэнняў з'явілася ў мове ў 20—30-я гады 20 ст. (тыпу *пясак* — сучаснае *пясец*; *багавіца* — сучаснае *багіня*). З прычыны сваёй штучнасці яны былі страчаны мовай і замяніліся іншымі словамі, сярод якіх сустракаюцца як уласна беларускія ўтварэнні, так і калькі, і запазычанні. Такім чынам, лексічныя нормы, як і нормы іншых моўных узроўняў, не застаюцца нязменнымі.

Часта ў вырашэнні пытання аб тым, ці будзе прынята як нарматыўнае ўжыванне таго або іншага слова, галоўную ролю адыгрывае моўная практыка прызнаных пісьменнікаў. Напрыклад, дзеяслоў *рушыцца* ў значэнні 'раздзяляцца, распадацца на часткі пад уздзеяннем якой-небудзь сілы, абвальвацца' ў штодзённым ужыванні распаўсюджаны мала. Гэта ж пацвярджае «Руска-беларускі слоўнік» (1982), у якім для рускага *рушиться* ва ўказаным значэнні прыводзяцца беларускія адпаведнікі *разбурацца, валіцца, абвальвацца, абрушвацца, абурвацца*. Але выкарыстанне гэтага дзеяслова такімі аўтарытэтнымі пісьменнікамі, як М. Лынькоў і Я. Маўр, было падставай для складальнікаў «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» ўключыць яго ў слоўнік без усякіх стылістычных памет.

Даволі дакладныя крытэрыі і патрабаванні да выкарыстання таго ці іншага слова можна ўстанавіць для нейтральнай, кніжнай мовы, для такіх стыляў, як навуковы і афіцыйна-дзелавы [гл. **Навуковы стыль; Афіцыйна-дзелавы (афіцыйна-справавы) стыль**]. Больш складана вызначыць адзнакі лексічнай нарматыўнасці ў мастацкім і размоўным стылях.

Нарматыўнасць словаўжывання ў стылі мастацкай літаратуры мае наступныя асаблівасці. Па-першае, у мастацкіх творах не толькі дапушчальным, але і неабходным з'яўляецца ўжыванне нелітаратурнай лексікі — дыялектнай, прастамоўнай, жаргоннай, калі яна служыць для стварэння мастацкага вобраза, а таксама перадачы мясцовага каларыту [параўнайце: — *Як, столькі за гэта гніллё? — перапытаў ляснік.— Каму гніллё, а каму жытло...* (А. Кудравец); *Яна дастала з печы скавародку, перавярнула аладку на другі бок, і, упёршыся на гаршчэчнік, падумала* (Я. Брыль)]. Па-другое, слова характарызуецца асацыятыўнымі сувязямі, якія не заўсёды відавочныя, калі браць пад увагу толькі яго лексічнае значэнне. У мастацкім, асабліва паэтычным, тэксце слова можа набываць сэнс або нейкія адценні, не характэрныя для яго як для лексічнай адзінкі. Гэта часцей за ўсё тлумачыцца ўплывам кантэксту, а таксама індывідуальна-аўтарскім бачаннем навакольнага свету, адносінамі да мовы ў цэлым і да асобнага слова. У радках У. Караткевіча *Бэзавы спеў сірэнаў // У поўнай сонцам вадзе, // Гульні вясёлых дэльфінаў // Сярод вясёлых людзей...* «колеравы» прыметнік *бэзавы* спалучаецца з назоўнікам *спеў*. Гэта спалучэнне адлюстроўвае своеасаблівую сувязь пэўнага гучання з колерам, дапамагае перадаць больш складаныя настраёвыя асацыяцыі, ствараe непаўторнае эстэтычнае ўражанне.

У гутарковым стылі (гл. **Гутарковы стыль**) таксама дапускаецца ўжыванне стылістычна зніжанай лексікі — не толькі размоўнай, але і прастамоўнай (калі яна не з'яўляецца непрыстойнай, зняважлівай). Ужыванне ў гутарковым стылі такіх стылістычна зніжаных слоў, як *без аддухі* 'бесперапынна, безупынна', *здаройкацца* 'вітацца, кланяцца', *забыцца* 'забыць', *пахкі* 'пахучы, духмяны' не можа расцэньвацца як парушэнне літаратурнай нормы. Спецыфіка апошняй у адносінах да гутарковага стылю якраз і заключаецца ў дазволе ўжываць падобныя лексічныя адзінкі, што адпавядаюць нязмушаным абставінам, у якіх выкарыстоўваецца гэты стыль.

Парушэнне лексічных норм вядзе да памылак словаўжывання. Можна вылучыць шэраг найбольш тыповых лексічных памылак.

Нярэдка памылка выклікана няведаннем значэння іншамоўных слоў. Напрыклад: *Эскалацыя ваенных дзеянняў вядзе да паляпшэння палітычнага становішча ў рэгіёне* (з вуснай мовы). Слова *эскалацыя* мае значэнне «паступовае павелічэнне, узмацненне чаго-небудзь», таму эскалацыя вайны не можа садзейнічаць паляпшэнню палітычнага становішча.

Даволі часта лексічныя памылкі абумоўлены лагічнымі парушэннямі, напрыклад: *Рукі яе, поўныя і белыя, былі закасаны вышэй локцяў* (з газеты).

Недакладнасць словаўжывання бывае звязана з неразмежаваннем паронімаў — слоў, блізкіх па гучанні, але розных па значэнні. У кантэксце *На першым пасяджэнні быў распрацаваны і статус савета выхаднікаў* (з мовы радыё) назоўнік статус 'прававое палажэнне або стан' ужыты замест *статут* 'збор правіл, якія вызначае парадак чаго-небудзь; палажэнне аб структуры і дзейнасці якой-небудзь арганізацыі'.

Прычынай памылковага словаўжывання можа быць лексічны ўплыў іншай мовы. Так, у беларускай і рускай мовах ёсць так званыя міжмоўныя амонімы і паронімы (напрыклад, беларускае *годнасць* 'сукупнасць высокіх маральных якасцей' адпавядае рускаму *достоинство*, а рускае *годность* — беларускаму *прыгоднасць*). У сказе *Свет у пакоі дзяўчат быў цьмяны* (з мовы радыё) назоўнік *свет* ужыты пад уплывам рускага *свет* 'асвятленне' замест *святло*. Уплыў рускай мовы часта выяўляецца і ў няўдалым калькаванні: *Хатнія паважалі яго і любілі*. А лепш было б сказаць: *Дома паважалі яго і любілі*.

Да лексічных далучаюць часам і некаторыя іншыя тыпы памылак:

— злоўжыванне канцылярызмамі і штампамі, што збядняюць мову не

толькі па форме, але і па зместу: *Адпаведна перспектыўнаму плану работы сярод насельніцтва арганізацыя таварыства «Веды» давяла да ведама многіх раённых і гарадскіх вытворчых калектываў факт прыезду лектара па атэізму* (з газеты);

— ужыванне плеанастычных і таўталагічных выразаў *(свабодная вакансія, перыяд часу, памятны мемарыял)*;

— змешванне ў адным кантэксце рознастылёвай лексікі, напрыклад, лексікі размоўнага і навуковага стыляў або афіцыйна-дзелавога і стылю мастацкай літаратуры. Так, у кантэксце *Трэба ўлічваць усе грані аблічча маладых людзей, будучых салдат* (з газеты) кніжнае, з пэўным афіцыйна-дыдактычным адценнем *трэба ўлічваць* дрэнна спалучаецца з ужытым у пераносным сэнсе словам *грані*.

Няўдалае ўжыванне канцылярызмаў і штампаў, плеанастычных і таўталагічных зваротаў, рознастылёвай лексікі, а таксама лексікі нелітаратурнай часам разглядаюць і як уласна стылістычныя парушэнні, а не лексічныя памылкі. Паколькі тут ацэньваецца ўсё ж выкарыстанне лексічных адзінак, можна лічыць, што гэтыя парушэнні датычаць і лексікі. Іх можна было б кваліфікаваць як лексіка-стылістычныя.

Звесткі пра значэнне слова, яго стылістычную афарбоўку можна знайсці ў тлумачальных слоўніках беларускай мовы, слоўніках сінонімаў, іншамоўных слоў. Каб пазбегнуць лексічных памылак, варта карыстацца таксама перакладнымі (беларуска-рускімі і руска-беларускімі) слоўнікамі, слоўнікам цяжкасцей беларускай мовы.

*Літ.:* Пытанні культуры мовы. Мн., 1976; Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976; Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1980; Яго ж. Культура слова. Мн., 1983; Юрэвіч А. К. Стылістыка беларускай мовы. 2 выд. Мн., 1992; Культура мовы журналіста. Вып. 1—5. Мн., 1982—90.

*А. І. Цімашэнка.*

## ЛЕМЦЮГОВА ВАЛЯНЦІНА ПЯТРОЎНА



Беларускі мовазнавец В. П. Лемцюгова нарадзілася 19 снежня 1935 г. ў в. Новая Алакюль Ленінградскай вобласці. Скончыла БДУ (1958). Настаўнічала. З 1961 г. ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі (з 1987 г. загадчык аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі). Доктар філалагічных навук (1988).

Асноўныя кірункі яе навуковых інтарэсаў: анамастыка (у прыватнасці, тапаніміка, якая вывучае ўласныя назвы геаграфічных аб'ектаў), сучасная беларуская літаратурная мова і культура мовы, лексікалогія і лексікаграфія, тэрміналогія, дыялекталогія.

Манаграфія В. П. Лемцюговай «Беларуская айканімія» (Мн., 1970) належыць да рэгіянальнага тыпу даследаванняў (напісана на матэрыяле сучаснай айканіміі Мінскай вобласці). У ёй высвятляецца паходжанне 4 тысяч айконімаў, прааналізаваны іх семантычны склад і словаўтваральныя сродкі (тапафарманты). Дыферэнцыравана разглядаюцца айконімы, утвораныя ад агульных слоў (апелятываў), ад назваў рэк і азёр (гідронімаў), ад асабовых імён (антрапонімаў), паказваюцца працэсы зараджэння і эвалюцыі беларускіх айконімаў, раскрываецца сутнасць закладзенай у іх інфармацыі. Аналіз вядзецца ў дыяхранічным аспекце, што дае магчымасць высветліць час узнікнення айконімаў, тэндэнцыі айканімічнай намінацыі папярэдніх эпох, паказаць іх эвалюцыю і гістарычныя змены.

Манаграфія «Усходнеславянская айканімія апелятыўнага паходжання» (Мн., 1983) і ў комплексе з ёй доктарская дысертацыя «Усходнеславянская айканімія ў яе сувязі з семантычнай гісторыяй намінальных назваў тыпаў паселішчаў і жылля» прысвечаны вывучэнню ўсходнеславянскіх (рускіх, беларускіх і ўкраінскіх) назваў населеных пунктаў (айконімаў), якія паходзяць ад агульных слоў са значэннем 'тып пасялення'. Асноўнай крыніцай фактычнага матэрыялу даследчыцы паслужыла айканімія «Спісаў населеных месцаў Расійскай імперыі» (44 тамы, 2-я палова 19 — 1-я палова 20 ст.) і аналагічныя спісы, выдадзеныя ў Гродне, Вільні, Кіеве і іншых гарадах. Шырока выкарыстаны сведчанні старажытнага і сярэдневяковага пісьменства, летапісаў, актаў, метрык, пісцовых і памятных кніг. Працы выкананы ў рэчышчы гісторыка-генетычных даследаванняў, маюць тыпалагічны кірунак. У іх вырашаецца адно з цэнтральных пытанняў гістарычнай анамастыкі — пытанне семантычнай матывацыі, робіцца спроба асэнсаваць айконімаўтваральны працэс у шырокім лінгвагістарычным і арэальным аспектах.

В. П. Лемцюгова — аўтар першага ў беларускай і славянскай лексікаграфіі «Украінска-беларускага слоўніка» (1980), рэестр якога змяшчае больш за 30 тысяч слоў. Яго выхад у свет адзначаны як падзея ў культурным і навуковым жыцці не толькі Беларусі і Украіны, але і ў Польшчы, Чэха-Славакіі, Англіі, Бельгіі, Канадзе, Румыніі. Гэта трэці іншаславянска-беларускі слоўнік пасля «Руска-беларускага» (М., 1953 і двухтомнага «Руска-беларускага». Мн., 1982) і «Польска-беларускага» (Варшава, 1962). Слоўнік дыферэнцыйны: яго рэестр змяшчае асноўную, найбольш ужывальную лексіку сучаснай украінскай літаратурнай мовы, якая чымнебудзь адрозніваецца ад сваіх беларускіх адпаведнікаў — значэннем (адным або некалькімі), месцам націску, словаўтварэннем, граматычным радам. Побач з літаратурнай лексікай у яго ўключаны словы ўкраінскай жывой народнай мовы, якія ўжываюцца ў сучаснай украінскай мастацкай літаратуры, публіцыстыцы і навуцы, а таксама словы, неабходныя для разумення ўкраінскай класічнай літаратуры.

В. П. Лемцюгова ўдзельнічала ў падрыхтоўцы 3 дакладаў на міжнародныя з'езды славістаў, у стварэнні калектыўных лексікаграфічных прац «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі» (1970), «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (1987). Яна сааўтар (з Г. У. Арашонкавай) «Слоўніка цяжкасцей беларускай мовы» (1987) і слоўніка-даведніка «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах» (1991). З П. У. Сцяцко яна напісала раздзел «Словаўтварэнне» ў «Беларускай граматыцы» (ч. 1, 1985). Яна член анамастычнай камісіі пры Міжнародным камітэце славістаў, старшыня Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры АН Беларусі, удзельнік міжнароднай тэмы «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас», кіраўнік тэмы «Анамастыка Пабужжа» па лініі беларуска-польскага навуковага супрацоўніцтва.

*Тв.:* Патранімічныя назвы Міншчыны // Пытанні мовазнаўства і методыка выкладання моў. Мн., 1965; Беларускія тапонімы на -шчына, -аўшчына/-оўшчына // Пытанні беларускай этнаграфіі, фальклыстыкі і тапанімікі. Мн., 1967; Назвы зямельных участкаў як крыніца беларускай тапаніміі // Пытанні беларускай тапанімікі. Мн., 1970; Беларускія айконімы на -онкі/-ёнкі, -ата/-аты, -ята/-яты, -аната/-аняты, -янята/-яняты, -енты/-энты // Лінгвістычныя даследаванні. Мн., 1968; Беларуская айканімія. Мн., 1970; Сінанімія тапаасноў // Актуальныя праблемы лексікалогіі. Мн., 1970; Уласныя геаграфічныя назвы (скланенне) // Бела-

руская мова. Мн., 1973; Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходнеі заходнеславянскіх мовах: (Адантрапанім. айконімы). Мн., 1973 (разам з М. В. Бірылам); Опыт реконструкций старых ареалов локально-ограниченной лексики (разам з Г. В. Арашонкавай) // Совещание по общеславянскому лингвистическому атласу: Тез. докл. Мн., 1975; Словаўтварэнне адтапанімічных прыметнікаў // Бел. анамастыка. Мн., 1977. Вып. 1; Айконімы з лексічнай асновай пагост // Тамсама. Мн., 1981. Вып. 2; Функции и место суффиксов с элементамі -к-, -с-, -ĉ- в славянской ойконимии // Материалы VIII Международного съезда славистов. Скопле, 1979 (разам з М. В. Бірылам); Тэрмін двор і яго вытворныя ва ўсходнеславянскай айканіміі // Бел. лінгвістыка. 1981. Вып. 19. Назвы тыпаў паселішчаў у складзе ўсходнеславянскай айканіміі (выставок, выставка, выселка, выселок, выселкі) // Бел. мова. Мн., 1981. Вып. 9; Назвы тыпаў паселішчаў у складзе ўсходнеславянскай айканіміі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1982. № 1; Восточнославянская ойконимия апеллятивного происхождения: Названия типов поселения. Мн., 1983; Формирование восточнославянской ойконимии в связи с развитием типов поселений. Мн., 1983; Тапанімічныя эцюды: (Мінск. Лагойск. Клецк. Рэчыца. Ружаны. Пружаны) // Бел. анамастыка. Мн., 1992; Ці скланяюцца тапонімы // Жывая спадчына. Мн., 1992. *І. У. Саламевіч.*

## ЛЕПЕШАЎ ІВАН ЯКАЎЛЕВІЧ



Беларускі мовазнавец І. Я. Лепешаў нарадзіўся 23 кастрычніка 1924 г. ў в. Іскозы Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Аршанскі настаўніцкі інстытут (1948), Гродзенскі педагагічны інстытут імя Я. Купалы (1959). Настаўнічаў. З 1971 г. на кафедры беларускай мовы Гродзенскага універсітэта. Доктар філалагічных навук (1985), прафесар (1987).

Асноўная сфера яго навуковых зацікаўленняў — фразеалогія, мова мастацкай літаратуры, розныя аспекты культуры мовы і маўлення, марфалагічныя, сінтаксічныя, фразеалагічныя нормы і выпадкі іх парушэння ў вуснай і пісьмовай мове. У 1973 г. разам з Н. В. Гаўрош і Ф. М. Янкоўскім выдаў першы тлумачальны фразеалагічны слоўнік беларускай літаратурнай мовы — «Фразеалагічны слоўнік для сярэдняй школы», у якім змешчана больш за 1330 фразеалагічных адзінак, тлумачыцца іх сэнс, на прыкладах з твораў мастацкай літаратуры, што ўключаны ў школьную праграму ці рэкамендаваны для пазакласнага чытання, паказваецца ўжыванне фразеалагізмаў у маўленні.

У манаграфіі «Фразеалогія ў творах К. Крапівы. Стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў» (1976) паказаў майстэрства К. Крапівы, пачуццё меры і мастацкай мэтазгоднасці ў выкарыстанні фразеалагізмаў, раскрыў ролю пісьменніка ва ўзбагачэнні і абнаўленні нацыянальнага фразеалагічнага фонду, багацце і разнастайнасць прыёмаў аўтарскага абнаўлення фразеалагізмаў для стварэння адпаведных стылістычных эфектаў.

Спецыфіку мовы мастацкай літаратуры І. Я. Лепешаў раскрыў у кнізе «Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора» (1981), у якой на аснове даследавання гутаркі «Дзядзька Антон», камедыі В. І. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта», паэмы Я. Коласа «Новая зямля», камедыі К. Крапівы «Хто смяецца апошнім», паэмы А. Куляшова «Сцяг брыгады» і інш. паказаў, як трэба аналізаваць розныя «моўныя цяжкасці»: факты семантычнага характару, мнагазначнасць слова, індывідуальна-аўтарскія інтэрпрэтацыі магчымасцей слова, ужыванне слоў з нязвыклым сэнсам або стылістычным адценнем, розныя змены формы або зместу фразеалагізмаў, выкарыстанне архаізмаў і гістарызмаў, імён, фактаў, падзей, якія патрабуюць рэальна-гістарычнага каментарыя і інш.

Каля 450 фразеалагізмаў беларускай літаратурнай мовы тлумачыць аўтар у «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» (1981) — першай спробе ў беларускім мовазнаўстве стварыць слоўнік такога тыпу. Ён расшыфроўвае, тлумачыць сэнс, унутраную форму ўстойлівых выразаў са страчанай або зацемненай матывіроўкай сучаснага значэння, якія ўзніклі непасрэдна ў беларускай мове або ўжываюцца ў ёй як спадчына агульнаславянскага ці ўсходнеславянскага перыяду. У 1993 г. выйшла 2-я частка гэтага слоўніка, у якой раскрываецца паходжанне каля 900 фразеалагізмаў.

У стылістычным плане фразеалогію сучаснай беларускай літаратурнай мовы І. Я. Лепешаў даследуе ў манаграфіі «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы» (1984). У кнізе аналізуюцца стылявыя разрады і стылістычныя функцыі фразеалагічных адзінак, сістэматызуюцца індывідуальна-аўтарскія прыёмы абнаўлення фразеалагізмаў.

І. Я. Лепешаў — аўтар вучэбных дапаможнікаў для філалагічных факультэтаў. У «Практыкуме па беларускай мове» (з Г. М. Малажай і К. М. Панюціч, 1980; 2 выд. 1988) разнастайным пісьмовым і вусным заданням папярэднічаюць кароткія тэарэтычныя звесткі, значная ўвага ўдзяляецца словаўжыванню, культуры маўлення. У практыкуме «Асновы культуры мовы і стылістыкі» (1989) аўтар змясціў разнастайныя заданні і практыкаванні па камунікатыўных якасцях маўлення (правільнасць, дакладнасць, лагічнасць, чыстата, дарэчнасць, разнастайнасць, выразнасць), а таксама абгрунтаванні некаторых «аслабленых» участкаў маўлення і рэкамендацыі па пытаннях літаратурных норм (арфаэпічных, акцэнталагічных, словаўтваральных, марфалагічных, сінтаксічных, фразеалагічных).

У слоўніку «З народнай фразеалогіі» (1991) І. Я. Лепешаў апублікаваў з семантычнай, граматычнай, стылістычнай, а часам і этымалагічнай характарыстыкай каля 700 фразеалагізмаў, запісаных ім у Гродзенскай і Віцебскай абласцях, якія не апісваліся ў даведніках ні літаратурнай, ні народна-дыялектнай мовы.

«Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» (Т. 1—2, 1993) І. Я. Лепешава — тлумачальны нарматыўны фразеалагічны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы, у якім лексікаграфічна апісана каля 6000 фразеалагізмаў. Кожнаму ўстойліваму выразу аўтар дае семантычную, граматычную і стылістычную характарыстыку, у адпаведных выпадках паказвае сінанімічныя і антанімічныя сувязі фразеалагізмаў. Слоўнік багата ілюстраваны пацвярджальнымі цытатамі з беларускай мастацкай і публіцыстычнай літаратуры.

*Тв.:* Вывучэнне асаблівасцей мясцовай гаворкі і папярэджанне дыялектных памылак // Нар. асвета. 1968, № 10; Фразеалагізмы ў сказе // Тамсама. 1970, № 12; Прыёмы выкарыстання прыказак у творах К. Крапівы // Тамсама. 1972, № 11; Фразеалагічны слоўнік на ўроках мовы і літаратуры // Тамсама. 1975, № 6; Лексічны аналіз слова // Тамсама. 1980. № 9; Фразеалагізм і пунктуацыя // Тамсама. 1982. № 3; Фразеалагізм і націск // Тамсама. 1983. № 9; Сінтаксічныя нормы і выпадкі іх парушэнняў // Тамсама. 1986. № 3; Дакладнасць маўлення // Тамсама. 1987. № 2; Адносна частотнасці фразеалагізмаў у мастацкім творы // Весці АН БССР. 1972. № 2; Лексікаграфічная распрацоўка народнай фразеалогіі // Тамсама. 1974. № 1; Кантамінацыя фразеалагізмаў // Бел. лінгвістыка. Мн., 1973. Вып. 4; Аднаўленне ўнутранай формы фразеалагізма як мастацкі прыём // Тамсама. 1975. Вып. 7; Фразеалагічныя паўкалькі ў беларускай літаратурнай мове // Тамсама. 1979. Вып. 15; Функцыянальна не замацаваныя фразеалагізмы // Тамсама. 1983. Вып. 23; Фразеалагічная кантамінацыя і моўная норма // Тамсама. 1983.

Вып. 24; Парадак слоў і лагічнасць маўлення // Тамсама. 1986. Вып. 30; Унутрыфразеалагічная дэрывацыя // Тамсама. 1988. Вып. 33; Арфаграфічныя агрэхі ў дапаможніку па арфаграфіі // Полымя. 1973. № 10; Хто такі ён: Пра ўжыванне займеннікаў // Тамсама. 1979. № 6; Дасціпна і трапна: Пра фразеалагізмы ў мастацкай літаратуры // Тамсама. 1981. № 5; Даследуецца стылістыка // Тамсама. 1981. № 12; Лексіка-граматычная спалучальнасць фразеалагізмаў // Бел. мова і мовазнаўства. Мн., 1974. Вып. 2; Структурныя тыпы фразеалагізмаў // Тамсама. 1976. Вып. 4; Некаторыя шляхі ўзнікнення фразеалагізмаў // Бел. мова. 1980. Вып. 7; Лексічная і фразеалагічная зеўгма // Тамсама. 1983. Вып. 11; Семантыка фразеалагізма і кантэкст // Тамсама. 1984. Вып. 12; Сінанімічныя фразеалагізмы і іх стылістычная дыферэнцыяцыя // Весн. БДУ. Сер. 4. 1983. № 1; Моўныя самацветы. Мн., 1985; Зваротная сувязь: Чытач — часопіс — чытач // Бел. мова і літ. ў школе. 1988. № 8; Ад прыказкі да фразеалагізма // Тамсама. 1988. № 9; Белорусская диалектная фразеология в словарях различных типов: Лексикогр. обзор // Тр. Самаркандского ун-та. Вып. 237. Вопр. фразеологии. 1972. № 6; Тыпы дыялектных фразеалагічных слоўнікаў // Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору. Гомель, 1973; Эліпсаваныя варыянты фразеалагізмаў // Навуковыя працы Мінскага пед. ін-та. Т. 5. Філалогія. Мн., 1973. Вып. 1; Лексічныя варыянты фразеалагізмаў // Сборник научных статей. Мн., 1974; З лексікі вёскі Бершты Шчучынскага раёна // З народнага слоўніка. Мн., 1975; Лінгвістычны аналіз і правільнае ўразуменне тэксту // Лінгвістычны аналіз тэксту. Мн., 1975; У дыялектны слоўнік Гродзеншчыны // Народная лексіка. Мн., 1977; О возникновении фразеологизмов на базе пословиц // Семантико-грамматические характеристики фразеологизмов русского языка. Л., 1978; Фразеалагічныя запазычанні і калькі з рускай мовы // Беларуская фразеалогія, лексікалогія. Мн., 1980; Фразеалагізмы ў камедыі Я. Купалы «Паўлінка» // Купалава і Коласава слова: Зб. арт. Мн., 1981; Аб стылістычных функцыях фразеалагізмаў у творах Я. Купалы // Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур. Мн., 1982; Фразеологизм и языковая норма // Актуальные проблемы русской фразеологии. Л., 1983.

*І. У. Саламевіч.*

Багаты матэрыял для вывучэння гістарычнай фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу, лексікі і фразеалогіі старажытнай беларускай мовы дае летапісанне, якое існавала на Беларусі амаль 8 стагоддзяў (12—19 ст.). Летапісы складаліся ў розны час і ў розным сацыяльна-культурным асяроддзі, таму паводле зместу, ідэйнай скіраванасці і жанрава-стылявых асаблівасцей яны вельмі разнастайныя.

Адметнае месца ў гісторыі беларускага летапісання займаюць летапісы 14—17 ст., якія ствараліся як агульнадзяржаўныя ў Вялікім княстве Літоўскім. Іх прынята называць беларуска-літоўскімі, бо яны — духоўны набытак двух народаў — беларускага і літоўскага, якія жылі ў адной дзяржаве амаль пяць стагоддзяў. У адрозненне ад традыцыйных летапісных помнікаў, дзе запісы вяліся ў храналагічным парадку на працягу доўгага часу некалькімі пакаленнямі летапісцаў, беларуска-літоўскія летапісы — гэта цэласныя літаратурныя творы. Паводле слоў акадэміка Я. Ф. Карскага, у іх «рана праявіліся асаблівасці як у форме, так і ў змесце, а таксама ў настроі і пачуццях іх складальнікаў» (Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3, вып. 2. Пг., 1921. С. 94). Да нашага часу захавалася больш за 20 спісаў беларуска-літоўскіх летапісаў (Віленскі, Слуцкі, Нікіфараўскі, Супрасльскі, Акадэмічны, Красінскага, Рачынскага, Румянцаўскі, хроніка Быхаўца і інш.), большасць з якіх зберагаецца ў Маскве і Санкт-Пецярбургу.

У спісах, якія дайшлі да нашага часу, беларуская мова адлюстравалася неаднолькава: у адных пераважаюць рысы беларускай мовы, у другіх, пры наяўнасці ўласна беларускіх асаблівасцей,— шырока адлюстроўваецца традыцыйная лексіка, граматычныя і фанетычныя нормы агульнаўсходнеславянскай і стараславянскай моў.

Вывучэнне мовы летапісаў, пачатае акадэмікам Я. Ф. Карскім і прадоўжанае М. А. Жыдовіч, М. І. Карнеевай-Петрулан, Н. Т. Вайтовіч, Е. С. Мяцельскай, А. І. Жураўскім, Л. М. Шакуном, дало факты для характарыстыкі графікі, фанетыкі, марфалогіі, лексікі, фразеалогіі, сінтаксісу названых помнікаў і засведчыла беларускамоўную аснову іх арыгінальных частак. Як устойлівую асаблівасць мовы летапісных помнікаў вучоныя вылучаюць аканне: *манастырь, караблех, витовтавым, горазда*. Аканне выразна праяўляецца і ў тых словах, дзе на месцы этымалагічна правільнага *а* летапісец ужываў *о*: *у комнотѣ, корати, пригодала* і інш. Адзначаецца перавага поўнагалосных формаў: *полон, волохи, холопъ, сторожею, середний*; пераход *у* у *ў* (праяўляецца праз змешванне графем *у* і *в*) : *вжо, вмел, втекали, вродили, взнал, втопити*. У галіне кансанантызму выразна праяўляюцца такія моўныя з'явы, як: змена *в* на *ў*: *были у великои милости и в ласце; быти у Вилни; у Городне; у Троцехъ; у его воли быти* і інш.; зацвярдзенне *р*: *тры, пострыглася, прыгородки, прыехал*; зацвярдзенне губных зычных на канцы слоў: *любовъ, семъ*; падаўжэнне зычных: *братанню*; асіміляцыя зычных (прыпадабненне глухіх да звонкіх і шыпячых да свісцячых): *збирати, з нею, з нѣмци; волоского, ческое*; распадабненне груп зычных *кт, чт* у выніку страты рэдукаваных: *нѣхто, хто, што, нѣшто*.

Асаблівасці марфалогіі старажытнай беларускай мовы таксама знайшлі сваё адлюстраванне ў летапісах. Напрыклад: ужыванне канчатка *-у* (побач з канчаткам *-а*) для назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку ў родным склоне: *пироу, скарбу, от початку, з голоду*; наяўнасць канчатка *-у* ў месным склоне ў назоўніках мужчынскага роду (*на смоленьскоу, у Витебску*) і ніякага з асновай на *j* (*по выеханю*); выцясненне кароткай формы прыметнікаў; ужыванне дзеепрыслоўяў цяперашняга часу незаканчанага трывання з суфіксамі *-учи, -ючи, -ечи*: *служечи, ходечи, ждучи*;



Румянцаўскі спіс летапісу. Ліст 96(б). Фрагмент.



Летапіс паводле спіса Рачынскага. Канец 16 ст. Ліст 116(б). Фрагмент.

замацаванне поўнай формы займеннікаў: *собѣ, тобѣ, тая, той.*

Нямала адметнага і ў сінтаксісе беларускіх летапісаў. Як найболей выразны прыклад варта адзначыць выражэнне прыналежнасці прыметнікамі (замест назоўнікаў у родным склоне): *брат... Олгирдавъ, пана Спытковая, княгини... Олгирдоваа, вбили дву братов скиргаиловых.*

Я. Ф. Карскі падкрэсліваў, што для мовазнаўцаў найбольшую цікавасць маюць тыя старажытныя пісьмовыя помнікі, у якіх «народны элемент пераважае». Сярод беларускіх летапісаў з так званых мясцовых хронік вылучаецца Баркалабаўскі летапіс (гл. **Баркалабаўскі летапіс**), створаны ў пачатку 17 ст. Даследчыца мовы гэтага помніка М. І. Карнеева-Петрулан адзначала: «Сярод беларускіх летапісаў, якія дайшлі да нас, Баркулабаўскі летапіс па сваёй мове стаіць асобна. Мова іншых летапісаў з'яўляецца своеасаблівым сплавам старой кніжнай мовы з элементамі беларускай жывой мовы. Мова ж Баркулабаўскага летапісу — гэта ў большай сваёй частцы жывая, гутарковая беларуская мова» (Карнеева-Петрулан М. І. Мова Баркулабаўскага летапісу // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 3. С. 94). Адметнасць гэтага унікальнага твора можна пераканаўча паказаць на прыкладах хоць бы фразеалагічных адзінак. Сярод іх мноства такіх, якія ўжываюцца і ў сучаснай беларускай мове, хоць летапіс пісаўся амаль чатыры стагоддзі таму назад: *час стравити* (марна страціць час), *для бога* (прасіць), *як на кгвалт* (бегчы), *век зжити* (памерці), *мало хто, мало не, знаку не было* і інш. Беларускія словы аўтар уводзіў у тэкст свядома, нярэдка скарыстоўваючы прыём тлумачэння: *поховано — погребено, торги — ярмарки, слободы — волности, хоробы — болести.* Такія факты выяўляюць працэс моўнага адбору, працэс фарміравання лексічнага складу старажытнай беларускай мовы.

Што да іншых твораў мясцовага летапісання, то мова іх спецыяльна не вывучалася. Асобна даследуюцца творы гістарычна-мемуарнага жанру, якія ўзніклі на новым этапе беларускага летапісання ў 17 стагоддзі — дыярыушы і хранографы.

Летапісы маюць вялікае культурна-гістарычнае значэнне не толькі як помнікі беларускай літаратурнай мовы, але і як помнікі нацыянальнай літаратуры, грамадска-палітычнай думкі эпохі феадалізму, як каштоўная крыніца вывучэння багатага гераічнага мінулага нашага народа. Выдадзены яны былі ў 32 і 35 тамах «Поўнага збору рускіх летапісаў» (М., 1975; 1980; на рускай мове), уклад у падрыхтоўку і выданне якіх зрабіў доктар гістарычных навук М. М. Улашчык. Ён жа аўтар працы «Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання» (1985). Для мовазнаўчых даследаванняў, асабліва для вывучэння старажытнай графікі, арфаграфіі, фанетыкі, мэтазгодна выкарыстоўваць 17-ы том «Поўнага збору рускіх летапісаў» (Спб., 1907; на рускай мове).

*Літ.*: Карский Е. Ф. О языке так называемых литовских летописей. Варшава, 1894; Вайтовіч Н. Т. Баркалабаўскі летапіс. Мн., 1977; Жыдовіч М. Мова Супрасльскага летапісу // Матэрыялы сесіі АН БССР 1945 г. па аддзяленню грамадскіх навук. Мн., 1948; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Мяцельская Е. С. Уласнабеларуская лексіка Супрасльскага летапісу // Тр. по языкознанию (БГУ). Мн., 1958. Вып. 1; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984.

*В. К. Мароз.*

## ЛЁСІК ЯЗЭП ЮР'ЕВІЧ



Беларускі грамадскі дзеяч, мовазнавец, пісьменнік, педагог Я. Ю. Лёсік нарадзіўся 6 лістапада 1883 г. ў в. Мікалаеўшчына Мінскай вобласці. Дзядзька па матчынай лініі Якуба Коласа. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Скончыў Ноўгарад-Северскае гарадское вучылішча (1902). За ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905 г. быў арыштаваны і пасаджаны ў турму, з якой уцёк у 1907 г. У 1911 г. быў арыштаваны паўторна і сасланы на пажыццёвае пасяленне ў Сібір, дзе жыў каля г. Кірэнск Іркуцкай вобласці і каля г. Бадайбо. Вярнуўся на Беларусь пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.

У 1917 г. ўвайшоў у Беларускую сацыялістычную грамаду. Удзельнічаў у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі. Быў адным са стваральнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Рэдагаваў газеты «Вольная Беларусь» (1917—18) і «Беларусь» (1920), выступаў у друку з публіцыстычнымі артыкуламі пра актуальныя пытанні дзяржаўнага і грамадскага ладу краю, культурна-асветныя, нацыянальныя задачы беларускага народа і інш.

У 20-я гады Я. Лёсік выкладаў беларускую мову на Мінскіх лектарскіх курсах, у Беларускім дзяржаўным універсітэце і Белпедтэхнікуме. З 1922 г. правадзейны член Інбелкульта. Уваходзіў у склад акадэмічнай рады гэтай установы, рады аддзела гуманітарных навук, узначальваў Інстытут навуковай мовы, працаваў на кафедрах гісторыі беларускай мовы і жывой беларускай мовы, уваходзіў у правапісную, дыялекталагічную камісіі і камісію беларускай літаратурнай мовы. У 1928 г. Я. Лёсік быў зацверджаны правадзейным членам Беларускай акадэміі навук. У Інстытуце мовазнаўства ён працаваў намеснікам дырэктара і ўзначальваў Тэрміналагічную камісію.

У ліпені 1930 г. Я. Лёсік быў беспадстаўна арыштаваны, у снежні пазбаўлены звання акадэміка, а ў красавіку 1931 г. высланы ў г. Камышын Сталінградскай вобласці. Жыў у г. Нікалаеўскі, дзе працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў педтэхнікуме. У 1935 г. пераехаў на Браншчыну, але ў 1936 г. вымушаны быў вярнуцца ў Сталінградскую вобласць. Жыў у г. Дубаўка, а з 1937 г. — у г. Аткарск Саратаўскай вобласці. У час ссылкі напісаў сваю апошнюю працу — «Синтаксис русского языка» для педвучылішчаў, рукапіс якой быў канфіскаваны пры апошнім арышце ў 1938 г. Памёр у 1940 г. ў турме Саратава. Пастановай судовай калегіі Вярхоўнага суда БССР ад 10 чэрвеня 1988 г. справа ў адносінах Я. Лёсіка спынена, а з 17 мая 1990 г. ён адноўлены ў званні акадэміка.

У гісторыі беларускай мовазнаўчай навукі Я. Лёсік пакінуў след як арганізатар і ўдзельнік мовазнаўчага жыцця ў 20-я гг., як аўтар шматлікіх навукова-практычных дапаможнікаў і навуковых прац па беларускай мове. Падручнікі Я. Лёсіка былі адным з самых пашыраных сродкаў навучання беларускай мове сярод розных груп насельніцтва, яны неаднаразова перавыдаваліся (дапаможнік па правапісе, напрыклад, 8 разоў). У значнай ступені дзякуючы ім у савецкай Беларусі стала шырока выкарыстоўвацца правапісная сістэма беларускай мовы, зафіксаваная ў «Беларускай граматыцы для школ» (1918) Б. Тарашкевіча. Ад падручнікаў Я. Лёсіка, а таксама ад распрацаваных ім у 20-я гг. слоўнікаў лінгвістычнай тэрміналогіі ідзе сталая традыцыя выкарыстання ў беларускім мовазнаўстве многіх лінгвістычных тэрмінаў (напрыклад, *назоўнік, прыметнік, займеннік, лічэбнік, дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе, злучнік, прыназоўнік, выклічнік, выказнік* і інш.).




Працы Язэпа Лёсіка.

Адным з першых у беларускім мовазнаўстве Я. Лёсік пачаў грунтоўна распрацоўваць пытанні нацыянальнай літаратурнай мовы. У нарысе «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы» (1924—25), у «Граматычных нататках» (1927) і інш. публікацыях ён выклаў агульную канцэпцыю фарміравання беларускай літаратурнай мовы, вызначыў свае адносіны да запазычанняў, дыялектызмаў, нарматыўнасці і інш.: «Літаратурная мова павінна быць морам, куды ўліваюцца народныя дыялекты. Як паасобныя рэчкі гінуць у моры, падымаючы й асвяжаючы яго ровень, так і народныя гутаркі павінны разыходзіцца ў літаратурнай мове, каб асвяжаць яе ды павелічаць яе глыбіню й шырыню» [Полымя. 1924. № 2(10). С. 195]; «Літаратар, пісьменнік, стылізуючы народную мову, мусіць заўсёды мець на ўвазе ды не спускаць з вока таго, ці пашыраны той ці іншы факт мовы ў шырокіх народных масах, каб не заблудзіць у паветалізмах, у малавядомых фактах. Бо толькі тая песня варта гармонізацыі і прыдзецца да густу шырокім колам грамадзянства, якая пашырана ў народзе ды адбівае пачуванні шырокіх мас... Моўны факт, становячы сабою вузкі паветалізм, нават трапна стылізованы, заўсёды рызыкуе забыцца, не прышчапіцца...» (Тамсама).

У гэтых жа працах Я. Лёсік упершыню сфармуляваў многія рэкамендацыі па культуры мовы, якімі беларускае мовазнаўства карыстаецца і сёння. Так, рускую канструкцыю *что касается меня* Я. Лёсік прапаноўваў перадаваць па-беларуску як *што да мяне, як на мяне.* Вучоны заўважаў, што ў беларускай мове прыналежнасць звычайна выражаецца прыметнікам: *бацькава хата, матчына хустка.* Ён звярнуў увагу на тое, што пры дзеясловах *дзякаваць, выбачаць, даравацъ, балець* назоўнікі і займеннікі ўжываюцца ў давальным склоне: *мне баліць галава, дзякую табе, выбачайце мне.* У працах Я. Лёсіка рэкамендуюцца як правільныя канструкцыі: *захварэць на што, гэтымі днямі, вучыцца на каго, гадоў з дваццаць назад, у мяне ёсць* (а не *маюцца*) *грошы, ажаніцца з кім.* Вучоны звяртаў увагу на розніцу ва ўжыванні прыслоўяў *зараз* і *цяпер,* прыназоўнікаў *да* і *к,* першы распрацоўваў спосабы перакладу на беларускую мову рускіх дзеепрыметнікаў і інш.

Я. Лёсік займаўся таксама праблемамі правапісу. Яго першыя спробы рэгламентацыі беларускай мовы ў гэтай галіне адносяцца яшчэ да пачатку 1918 г., аднак найбольш вядома яго дзейнасць сярэдзіны 20-х гг. Лінгвіст быў ініцыятарам абмеркавання праблем, звязаных з удасканаленнем алфавіта і правапісу беларускай мовы. Пры яго актыўным удзеле ў 1926 г. была падрыхтавана і праведзена Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, на якой ён выступіў з двума дакладамі — «Да рэформы беларускай азбукі» і «Да рэформы беларускага правапісу». Вучоны прапанаваў абазначаць гукі [дз] і [дж] літарамі *д̆* і *ӂ*, замест *й* увесці *j*, на месцы літары *э* выкарыстоўваць *є*, замест *ы* — *и*. Я. Лёсік выступаў за паслядоўнае правядзенне фанетычнага прынцыпу для ўсіх гукаў, замацавання на пісьме поўнага акання і якання, за нязменнае напісанне злучніка *і* і прыназоўніка *у*, незалежна ад таго, на зычны ці на галосны гук заканчваецца папярэдняе слова. Ён прапаноўваў адмовіцца ад абазначэння на пісьме асімілятыўнай мяккасці зычных.

Большасць выказаных Я. Лёсікам на канферэнцыі прапаноў падтрымкі не атрымала. Аднак многія яго арфаграфічныя правілы, прапанаваныя ў артыкулах «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу» (1925), «Праект рэформы і стабілізацыі беларускага правапісу» (1929) і засведчаныя ў падручніках, былі рэалізаваны ў мовазнаўчай практыцы. Так, ён значна пашырыў і дэталізаваў правілы правапісу запазычаных слоў, вельмі коратка выкладзеныя ў граматыцы Б. Тарашкевіча. Першым з беларускіх мовазнаўцаў ён спецыяльна распрацоўваў правапіс складаных слоў. У падручніках і артыкулах Я. Лёсіка сфармуляваны (часта ўпершыню) правілы правапісу некаторых спалучэнняў зычных, беларускіх імёнаў, асобных выпадкаў ужывання вялікай літары, мяккага знака і інш.

Я. Лёсік займаўся таксама пытаннямі граматычнай нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы. Напрыклад, у сумеснай з А. Лёсікам працы «Да рэформы беларускага правапісу» (1926) ён прапаноўваў выключыць некаторыя выпадкі марфалагічнай дублетнасці, уласцівыя беларускай літаратурнай мове першай паловы 20-х гг. і зафіксаваныя ў граматыцы Б. Тарашкевіча. У працах па правапісе змешчаны некаторыя заўвагі вучонага па беларускай арфаэпіі.

З другой паловы 20-х гг. навуковыя зацікаўленні Я. Лёсіка не абмяжоўваліся рамкамі тагачаснай літаратурнай мовы. У 1928—29 гг. ён удзельнічаў у дыялекталагічнай экспедыцыі на Магілёўшчыну і прачытаў даклад на адпаведную тэму. У 1929 г. Я. Лёсік надрукаваў артыкул «Графіка, правапіс і мова ў тэстаменце кн. Саломерацкага і ў двух другіх дакументах з папер Саломерацкіх XVI ст.», у якім даследаваў графіка-правапісныя, фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці трох юрыдычных дакументаў, напісаных у канцы 16 — пачатку 17 ст.

Я. Лёсік таксама пісаў мастацкія творы. Яго пісьменніцкі талент быў заўважаны і высока ацэнены М. Гарэцкім, які асабліва вылучыў «Апавяданне без назвы» (1917—19). Я. Лёсік перарабіў на літаратурную мову і апублікаваў «Пінскую шляхту», а таксама пераклаў на беларускую мову празаічныя часткі камедыі-оперы «Ідылія» В. Дуніна-Марцінкевіча, фрагменты са «Шляхціца Завальні...» Я. Баршчэўскага, «Маніфест камуністычнай партыі» і інш. творы. Уклаў некалькі літаратурных чытанак для школ.

Увасабляючы ў мастацкіх вобразах народныя тыпы, Я. Лёсік выкарыстоўваў у сваіх творах тыя моўныя сродкі,

якія давалі магчымасць адлюстраваць народны светапогляд, сялянскую псіхалогію: прыказкі *(не радзіся красным, а радзіся шчасным; суджанага не мінеш, а што прамінула — не вернеш)*, устойлівыя параўнанні і параўнальныя звароты *(наравілі, як скуле; лезеце, як слата; гаспадарка, як дунай)*, фразеалагічныя звароты *(працідзь на прамілы Бог, як гарох пры дарозе, стаць у прыгодзе, пры добрым гумары)*. Звяртаюць на сябе ўвагу шматлікія аўтарскія параўнанні, цесна звязаныя з вясковым побытам, прадметамі і з'явамі навакольнага жыцця: *народ валіў, як вада ў навальніцу; паважалі, не раўнуючы, як той бруд на трэсцы; Нёман ён ведаў, як гаспадыня ўласныя ночвы; зірнуў скрыва, як певень у люстру; абмяк, як кісель ад вады.* Пісьменнік актыўна выкарыстоўваў таксама мясцовыя словы і формы *(пастарэкавацъ, мэрам, яха, длякацца, уз'ярытованы, верадавацъ, урымсціць, сталачыць, судачкі, удыгаць; платэ, жанке, рыбаке, абразэ)*, ствараў нараватворы *(апавядайца, запытайца, абразнік* 'той, хто каго-небудзь абразіў', *назірач*).

Вобраз Я. Лёсіка адлюстраваны ў паэме «Новая зямля» Я. Коласа (эпізадычна) і ў рамане «Пабуджаныя» Г. Далідовіча (персанаж Максім Лашковіч).

*Тв.:* Граматыка і родная мова // Вольная Беларусь. 1917. 30 жн.; Наш правапіс // Тамсама. 1918. 28 студз., 21 крас.; Родная мова і яе значэнне // Тамсама. 1918. 24(11) лют., 3(18) сак., 10(25) сак.; Памяткі старасвецкай беларускай мовы і пісьменства // Тамсама. 1918. 30 чэрв.; Рэц. на кн.: Гарэцкія М. і Г. Руска-беларускі слоўнік. Смаленск, 1918 // Вольная Беларусь. 1918. 18 жн.; Рэц. на кн.: Карский Е. Белорусская речь: Очерк нар. языка с ист. освещением. Пг., 1918 // Тамсама. 1918. 18 жн.; Рэц. на кн.: Луцкевіч А., Станкевіч Я. Беларускі правапіс. Вільня, 1918 // Тамсама. 1918. 14 ліп.; Практычная граматыка беларускае мовы. Мн., 1921; 2 выд. 1922; Беларуская мова. Пачатковая граматыка. Мн., 1924; 2 выд. 1925 — пад назвай «Пачатковая граматыка»; 4 выд. 1926 — пад назвай «Школьная граматыка беларускае мовы»; 8 выд. 1929; Беларуская мова. Правапіс. Мн., 1924; 2 выд. 1925 — пад назвай «Беларускі правапіс»; 8 выд. 1929; Сінтаксіс беларускае мовы. Мн., 1925; 2 выд. 1926; У справе рэформы нашае азбукі. Мн., [1925]; Спрашчэнне правапісу. Мн., [1926]; Граматыка беларускае мовы: Фанетыка. Мн., 1926; Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 15. Слоўнік граматычна-лінгвістычнае тэрміналогіі. (Праект). Мн., 1927; Граматыка беларускае мовы: Марфалогія. Мн., 1927; Працы Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. (14—21 ліст. 1926 г.). Мн., 1927. С. 115—123, 171—175, 183—208, 273—277, 290—292; Рэц. на кн.: Байкоў М., Некрашэвіч С. Беларуска-расійскі слоўнік. Мн., 1926 // Узвышша. 1927. № 2; Рэц. на кн.: Воўк-Левановіч О. В. Лекцыі па гісторыі беларускай мовы. Мн., 1927 // Сав. Беларусь. 1928. 2—3 лют.; Граматычны склад мовы Ц. Гартнага // Полымя. 1928. № 10; 1929. № 3, 7; Дзесяцігоддзе беларускае граматыкі. (1918—1928 г.) // Сав. Беларусь. 1928. 6 мая.

*Літ.:* Багдановіч І., Жынкін А. «Гэтага слаўнага пісьменніка чакаець яшчэ слаўнейшая будучыня» // За передовую науку. 1990. 4 мая; Запрудский С. Человек из прошлого, или Почему трудно стирать «белые пятна» в истории белорусского языкознания // Неман. 1991. № 6. *С. М. Запрудскі.*

## ЛІК

Лік — гэта граматычная катэгорыя, у аснове якой ляжыць супрацьпастаўленне аднаго і не аднаго. У сучаснай беларускай мове адрозніваюцца два лікі — адзіночны і множны: *дрэва — дрэвы, высокае — высокія, расло — раслі, яно — яны.* Гаворачы пра лік, мы найперш, вядома, маем на ўвазе лік назоўнікаў.

Звычайна формай адзіночнага ліку абазначаецца адзін прадмет, а формай множнага — болей, чым адзін. Для граматыкі гэта і ёсць паняцце «многа». Варта заўважыць, што ў старабеларускай мове існавала больш падрабязная дэталізацыя колькасных паняццяў у граматыцы: тады адрозніваліся паняцці «адзін прадмет» — «два прадметы» (якія складаюць пару) — «многа прадметаў». Для абазначэня гэтых паняццяў існавалі тры лікі: адзіночны, парны і множны. Рэшткі форм парнага ліку захаваліся ў некаторых народных гаворках. Так, на Слонімшчыне, Случчыне можна пачуць: *адно вядро — дзве вядрэ — тры вядры.* У працэсе развіцця мовы формы парнага ліку амаль поўнасцю былі выцеснены формамі множнага ліку.

Большасць назоўнікаў ужываецца ў формах і адзіночнага, і множнага лікаў. Супрацьпастаўленне адзіночнага ліку множнаму ў граматычнай сістэме ажыццяўляецца шляхам супрацьпастаўлення дзвюх парадыгм: у назоўніку — усіх шасці склонаў адзіночнага ліку шасці адпаведным склонам множнага, у дзеяслове — усіх трох асоб адзіночнага ліку адпаведным тром асобам множнага і г. д. Такім чынам, граматычнае значэнне ліку выражаецца сістэмай склонавых канчаткаў у скланяльных і асабовых канчаткаў у спрагальных часцін мовы.

Форма адзіночнага ліку паказвае, што прадмет прадстаўлены ў колькасці, роўнай аднаму: *стол, дом, вішня, акно, дзіця.* Абазначэнне адзінкавасці — асноўнае значэнне адзіночнага ліку. Разам з гэтым форма адзіночнага ліку можа ўжывацца і з абагульнена-зборным значэннем: *У возеры водзіцца* ***карась і шчупак;*** *Восенню з дрэў ападае жоўты* ***ліст.*** У такіх сказах указанне на пэўную колькасць не мае істотнага значэння і форма адзіночнага ліку лёгка замяняецца на форму множнага. Параўнаем: *У возеры водзяцца* ***шчупакі і карасі;*** *Восенню з дрэў ападаюць жоўтыя* ***лісты.*** Назоўнікі адзіночнага ліку з абагульнена-зборным значэннем часта ўжываюцца ў мове мастацкай літаратуры, у публіцыстычным стылі: *А мясцінка хвацкая, скажу я вам! Тут табе і бор, тут табе і* ***ягада*** *лясная, тут табе і* ***дзяцел****, тут табе і* ***зязюля*** (М. Лынькоў).

Зрэдку формы адзіночнага ліку могуць выражаць і значэнне размеркавальнай (дыстрыбутыўнай) множнасці; маецца на ўвазе, што прадмет, абазначаны назоўнікам, ёсць у многіх: *Дзеці слухаюць, адкрыўшы* ***рот.***

Форма множнага ліку паказвае, што прадметы прадстаўлены ў колькасці большай, чым адзін. У гэтым агульным значэнні формы множнага ліку вылучаюцца прыватныя значэнні раздзельнай (дыстрыбутыўнай) множнасці і сукупнасці як непадзельнай множнасці. Большасць форм множнага ліку абазначаюць раздзельную множнасць: *сталы, дрэвы, лісты, камяні, прамяні (промні)* і пад. Такія назоўнікі спалучаюцца з колькаснымі лічэбнікамі (інакш кажучы, прадметы можна палічыць). Разам з гэтым формы множнага ліку асобных назоўнікаў могуць абазначаць і непадзельную множнасць — сукупнасць прадметаў. Такія формы не спалучаюцца з колькаснымі лічэбнікамі (г. зн., прадметы нельга палічыць). Такое значэнне могуць, напрыклад, выражаць назоўнікі — назвы з'яў прыроды *(у палях* ***марозы*** *ды вятры* ***гуляюць****)*, назвы раслін, рэчываў і г. д. *(страўныя грыбы, мінеральныя воды).* Зборную множнасць могуць выражаць і формы назоўнікаў тыпу: *каменні, праменні, лісці, калоссі* і пад. Такія формы ўжываюцца ў мове мастацкай літаратуры: *Я хлеба ў багатых прасіў і маліў, яны ж мне* ***каменні*** *давалі. І тыя каменні між імі і мной сцяною вялізнаю ўсталі* (М. Багдановіч). Названыя формы блізкія значэннем да зборных назоўнікаў, якія выражаюць зборнасць праз форму адзіночнага ліку: *каменне, карэнне, лісце, калоссе* і г. д. Аднак поўнага паралелізму паміж зборнымі назоўнікамі адзіночнага ліку і назоўнікамі множнага ліку са значэннем зборнай множнасці ўсё ж не назіраецца. Так, ёсць форма множнага ліку *звенні* (побач існуе і форма са значэннем раздзельнай множнасці — *звёны*), але няма адпаведнай формы адзіночнага ліку са значэннем зборнасці. І наадварот, ёсць зборныя: *лам'ё, куп'ё* і інш., але няма форм са значэннем зборнай множнасці.

Паказчыкам значэння множнага ліку ў назоўным склоне выступае канчатак *-і(-ы): вішні, лавы, хаты;* у асобных назоўніках мужчынскага роду — канчатак *-е* (пры гэтым выпадае суфікс адзінкавасці — *-ін-*): *селянін — сяляне, армянін — армяне.* Форма множнага ліку ў некаторых выпадках, акрамя наяўнасці канчаткаў, патрабуе змены націску: *жóлуд — жалуды́,*

*ко́лас — каласы́*. Пры ўтварэнні форм множнага ліку назіраюцца і розныя іншыя марфаналагічныя змены ў аснове. Напрыклад: *неба — нябёсы, цяля (цялё) — цяляты, курыца — куры, дзіця — дзеці, дзяўчына — дзяўчаты, сусед — суседзі, чорт — чэрці, імя — імёны* і інш. Адзінкавыя назоўнікі ўтвараюць форму множнага ліку ад іншай асновы, параўнаем: *чалавек — людзі*.

Назоўнікі, якія не маюць форм словазмянення (як уласна беларускія, так і запазычаныя), значэнне ліку выражаюць толькі сінтаксічна: *наша родная маці — нашы дарагія маці, легкавое таксі — легкавыя таксі*.

Аднак далёка не заўсёды той назоўнік, што мае форму адзіночнага ліку, абазначае адзін прадмет, а той, што мае форму множнага — некалькі прадметаў. Поўнай тоеснасці паміж граматычным лікам у мове і колькасцю прадметаў у аб'ектыўнай рэчаіснасці не існуе.

У беларускай мове ёсць даволі вялікая група назоўнікаў, лексічнае значэнне якіх не звязана з паняццем колькасці. Такія назоўнікі граматычнага значэння ліку мець не могуць. Адны з іх маюць толькі формы адзіночнага ліку (адзіночналікавыя, або singularia tantum), другія — толькі множнага (множналікавыя, або pluralia tantum).

Да адзіночналікавых адносяцца назоўнікі, якія маюць рэчыўнае значэнне (*вугаль, смала, квас, малако, сена, вoўна, срэбра, мука, пюрэ, рагу, жыта, пясок*), значэнне зборнасці (*лом, друз, моладзь, студэнцтва, бедната, дзятва, птаства, лістота, смецце, ламачча, павуцінне*), абазначаюць розныя абстрактныя паняцці — якасці, уласцівасці, дзеянне, стан (*блакіт, сінеча, дабрыня, зло, хада, плач, смех, цярпенне, сум*), назвы вучэнняў, грамадскіх плыняў, мерапрыемстваў, галін навукі і г. д. (*капіталізм, шавінізм, індустрыялізацыя, лінгвістыка, геаметрыя*), назвы напрамкаў свету (*поўнач, поўдзень, усход, захад*), астранамічных і геаграфічных аб'ектаў (*Венера, Месяц, Зямля, Азія, Еўропа, Беларусь, Масква, Палаччына*), уласныя імёны (*БДУ, ЛіМ, Купала, Іван, Таццяна*). Не маюць форм множнага ліку некаторыя назоўнікі на *-мя: семя, цемя*.

Многія з пералічаных адзіночналікавых назоўнікаў у асобных кантэкстах могуць мець і форму множнага ліку, але пры гэтым яны набываюць не граматычнае значэнне множнасці, а новае лексічнае значэнне. Так, *смолы, маслы, сокі* — гэта разнавіднасці ці гатункі рэчываў; *пяскі, снягі, аўсы* — плошчы, занятыя ці засеяныя чым-небудзь; *глыбіні, хуткасці, радасці* — канкрэтныя выяўленні розных якасцей, уласцівасцей, стану; *болі* (параўн. *боль*), *шумы* (параўн. *шум*) і пад. — з'явы, розныя па сіле выяўлення. *Іваны, Васілі* — гэта некалькі розных асоб, якія маюць адно імя; тое ж самае — аб прозвішчах (*муж і жонка* ***Сцяпанавы,*** *браты* ***Васілеўскія***).

Да множналікавых адносяцца назоўнікі, якія абазначаюць прадметы з дзвюх ці некалькіх аднолькавых або падобных частак (*вілы, акуляры, вароты, сані, граблі, цымбалы, соты, вусны*), сукупнасць чаго-небудзь, якая ўяўляецца як нешта цэласнае (*грошы, ападкі, манаткі, карункі*), рэчыва (*шпалеры, дровы, лекі, высеўкі, аб'едкі*), рытуалы, працэсы, стан (*выбары, паводзіны, дрыжыкі, сухоты, замаразкі*), гульні, абрады, звычаі, святы (*гарадкі, хованкі, вячоркі, зажынкі, каляды, дзяды*), прамежкі часу ці прасторавыя паняцці (*суткі, канікулы, гоні*). Форму множнага ліку маюць і некаторыя ўласныя імёны (*Стажары, Альпы, Карпаты, Лужнікі, Пухавічы, Танежычы*). Множналікавыя назоўнікі, што абазначаюць прадметы, якія можна пералічыць (*вароты, граблі, сані*), а таксама прамежкі часу (*суткі, канікулы*) не пазбаўлены супрацьпастаўлення «адзінкавасць — множнасць». Значэнне ліку ў іх выражаецца сінтаксічна: адзіночнага — спалучэннем са словам *адны* ў яго лічбавым сэнсе (*адны сані, адны вароты, адны суткі*), множнага — спалучэннем са зборнымі ці колькаснымі лічэбнікамі (*двое воротаў, трое саней, пяць сутак, некалькі сутак*). Усе астатнія множналікавыя назоўнікі з лічэбнікамі не спалучаюцца і не здольныя выражаць супрацьпастаўленне «адзінкавасць — множнасць».

Лік як граматычная катэгорыя ўласцівы і іншым часцінам мовы: прыметнікам, асабовым займеннікам, дзеяслову. Аднак калі ў назоўніках і асабовых займенніках лік — гэта намінатыўная граматычная катэгорыя, якая адлюстроўвае аб'ектыўную рэальнасць, то ў астатніх часцінах мовы катэгорыя ліку, як правіла, не самастойная, не намінатыўная. Прыметнікі (а таксама тыя займеннікі, якія скланяюцца як прыметнікі: *мой, твой, такі, гэты, які, каторы, чый, свой, увесь, усякі, сам, самы, ніякі* і пад.) дапасуюцца да назоўнікаў і прымаюць форму таго ліку, што і назоўнік. У тых выпадках, калі назоўнік нязменны, прыметнік сам паказвае на лік назоўніка. Параўнаем: *маё новае паліто — мае новыя паліто.* Тое ж самае тычыцца і дзеепрыметнікаў. Асобныя займеннікі (*сябе, хто, нехта, нешта, ніхто, нішто* і інш.) наогул не маюць катэгорыі ліку. Не ўласціва гэта граматычная катэгорыя і лічэбнікам, за выключэннем слова *адзін*, якое мае форму ліку пры спалучэнні з множналікавымі назоўнікамі: *адзін стол*, але — *адны сані*. Лік у дзеясловах — таксама катэгорыя сінтаксічная, словазменная. Яна выражае аднесенасць дзеяння да аднаго суб'екта або да некалькіх суб'ектаў шляхам каардынацыі дзеяслова з адпаведнай формай назоўніка ці займенніка (*самалёт ляціць — самалёты ляцяць, я іду — мы ідзём*). Толькі ў аднасастаўных сказах лік дзеяслова мае самастойнае значэнне: *Стаю ля варот і чакаю.* Форма множнага ліку ў некаторых аднасастаўных сказах можа ўказваць на тое, што дзеянне выконваецца невядомай ці знарок не названай асобай (*Вас выклікаюць; Яму паведамілі тэлеграмай; Калі будзеце патрэбныя, вас паклічуць*).

Развіццё катэгорыі ліку ў беларускай, як і ў рускай і ўкраінскай мовах, ішло пераважна аднолькавымі шляхамі. Аднак ёсць невялікая група беларускіх назоўнікаў, якія адрозніваюцца формамі ліку ад падобных рускіх. Так, беларускаму назоўніку адзіночнага ліку *чарніла* адпавядае рускі множналікавы *чернила*; беларускім множналікавым *чарніцы, маліны, парэчкі, брусніцы, каноплі, крупы, паводзіны, дзверы* рускія назоўнікі адзіночнага ліку і адзіночналікавыя: *черника, малина, красная смородина, брусника, конопля, крупа, поведение, дверь* (пры магчымай форме *двери*).

*Літ.:* Наркевіч А. І. Назоўнік: Граматычныя катэгорыі і формы. Мн., 1976; Шкраба І. Р. Асаблівасці выражэння катэгорыі ліку назоўнікаў у беларускай мове // Весн. БДУ. Сер. 4. 1983. № 2; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## ЛІНГВАГЕАГРАФІЯ

Лінгвістычная геаграфія — лінгвагеаграфія — раздзел мовазнаўства, прадметам даследавання якога з'яўляюцца тэрытарыяльныя формы бытавання моўных з'яў і заканамернасці тэрытарыяльных адносін паміж імі. Лінгвагеаграфія вылучылася з дыялекталогіі як навуковы метад выяўлення і адлюстравання мясцовых гаворак. Гэты метад заснаваны на трох галоўных сродках рэалізацыі такой працы: сетка апорных населеных пунктаў, праграма даследавання і лінгвістычная карта. Сеткай апорных населеных пунктаў лінгвагеаграфічнага даследавання з'яўляюцца абраныя для яго правядзення населеныя пункты (паселішчы) на пэўнай моўнай тэрыторыі. Звычайна гэта сетка бывае выбарачнай, а апорныя населеныя пункты вызначаюцца, па магчымасці, на аднолькавай адлегласці адзін ад аднаго. Гушчыня апорнай сеткі залежыць ад задач лінгвагеаграфічнага даследавання.

Праграма даследавання — гэта яго мэта і канкрэтная тэматыка, якая знаходзіць сваё адлюстраванне ў лінгвагеаграфічным апытальніку. У ім змешчаны ўказанні на тыя моўныя з'явы, рэалізацыю якіх трэба ўстанавіць у гаворках апорных населеных пунктаў і дакладна занатаваць. Падаюцца ўказанні ў выглядзе назваў з'яў, іх апісання, прыкладаў іх выяў-

лення і г. д. Навуковае ўпарадкаванне і апрацоўка атрыманых звестак праводзіцца шляхам стварэння лінгвістычных карт і іх збораў — лінгвістычных (дыялекталагічных) атласаў.

Лінгвістычная карта змяшчае, як правіла, звесткі пра якую-небудзь асобную з'яву ў гаворках і яе рэалізацыю. Напрыклад, як вымаўляецца гук або спалучэнне гукаў у пэўным становішчы, якi канчатак мае слова ў пэўнай граматычнай ролі, якім словам называюць прадмет, істоту і г. д. Падаюцца на карце падобныя звесткі сістэмай умоўных знакаў.

Сабраныя ў населеным пункце звесткі з мясцовай гаворкі і ўпарадкаваныя ў паслядоўнасці пытанняў апытальніка складаюць фармуляры матэрыялаў. Збор такіх фармуляраў па населеных пунктах апорнай сеткі (звычайна сотні тамоў) з'яўляецца асновай для лінгвагеаграфічнага даследавання.

Паводле прынцыпаў падачы звестак на лінгвістычнай карце адрозніваюць сінтэтычнае і аналітычнае картаграфаванне. Пры сінтэтычным картаграфаванні розныя формы, варыянты, у якіх выступае з'ява ў розных гаворках, картаграфуюцца кожная сама па сабе, безадносна да іншых яе варыянтаў. Аналітычнае картаграфаванне, якое атрымала значнае пашырэнне ў сучаснай лінгвагеаграфіі, ставіць мэтай выяўленне адрозненняў у рэалізацыі моўных з'яў і іх сістэматызацыю, што прыводзіць да групоўкі гэтых адрозненняў паводле ўзроўняў, падузроўняў і г. д. (гукавыя, фаналагічныя, марфалагічныя, лексічныя і г. д.). На аснове групоўкі адрозненняў выпрацоўваецца сістэма ўмоўных абазначэнняў. У сувязі з тым, што кожная асобная форма з'явы, якая картаграфуецца, часта адрозніваецца ад іншых асаблівасцямі розных узроўняў, іх умоўныя абазначэнні выбіраюцца так, каб можна было адлюстраваць іх у адным знаку. Часта ў якасці моўнай з'явы пры картаграфаванні абіраюцца адпаведныя ці, як іх называюць, суадносныя, адрозненні якога-небудзь аднаго ўзроўню і канкрэтнага зместу, напрыклад, гукі ў адпаведнасці з пэўным гістарычным галосным або канчаткі пэўнай граматычнай групы слоў і г. д.

Аналітычныя лінгвістычныя карты маюць каментарыі. У іх падаецца тое, што павінна памагчы прачытаць карту і асэнсаваць яе змест.

Вынікам лінгвагеаграфічных даследаванняў з'яўляюцца комплексы лінгвістычных карт, прысвечаных паасобным з'явам. У гэтым якраз і заключаецца спецыфіка лінгвагеаграфічнага метаду, што вывучэнне асобнай моўнай з'явы ў гаворках на пэўнай тэрыторыі вядзецца ў комплексе з іншымі з'явамі. Падобныя сістэматызаваныя комплексы лінгвістычных




Лінгвістычныя атласы розных пакаленняў.




«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (разварот). 1963.

карт і складаюць лінгвістычныя (дыялекталагічныя) атласы.

Лінгвістычныя атласы падзяляюцца на універсальныя і тэматычныя. Універсальныя змяшчаюць лінгвістычныя карты аб з'явах усіх узроўняў моўнай сістэмы: фанетыкі, граматыкі, лексікі і інш. Тэматычныя ж атласы прысвечаны разгляду паасобных з'яў на нейкім адным узроўні (ці падузроўні) мовы.

Натуральна, што вялікая колькасць разнастайных асаблівасцей мясцовых гаворак, адлюстраваная ў лінгвістыч-

ным атласе, не дазваляе ўлавіць заканамернасці прасторавых сувязей і ўзаемаадносін паміж імі. Таму пасля завяршэння атласа яго складальнікі праводзяць звычайна спецыяльную работу па іх выяўленні. Для гэтага на кожнай карце атласа даследуецца прасторавае ўзаемаразмяшчэнне моўных адрозненняў (арэалы асаблівасцей) і ўстанаўліваюцца лініі, па якіх яны размяжоўваюцца — так званыя ізаглосы (ізафоны, ізаморфы, ізалексы і інш.). Канцэнтрацыя ізаглос у розных геаграфічных каардынатах звычайна неаднолькавая, што дае падставу групаваць іх паводле месца і асаблівасцей праходжання. Ізаглосы ў падобных групах пераплятаюцца звычайна ў жгут, або пучок, як прынята называць такія спляценні. Пучкі ізаглос адрозніваюцца паводле ўзроўневага характару ізаглос («фанетычныя», «марфалагічныя», «лексічныя» пучкі), па іх колькасці («магутныя» і «слабыя»), па блізкасці праходжання («шчыльныя» і «рыхлыя»). Яны адлюстроўваюць рэальныя межы пашырэння розных згрупаванняў мясцовых гаворак (падгруп, груп, дыялектаў, дыялектных масіваў або моў) па агульных асаблівасцях і характар узаемнага размежавання такіх згрупаванняў.

Лінгвагеаграфія вылучылася з дыялекталогіі ў канцы 19 — пачатку 20 стагоддзя. Пачынальнікам лінгвагеаграфічных даследаванняў з'яўляецца нямецкі дыялектолаг Г. Венкер. Аднак заснавальнікам гэтага раздзела мовазнаўства лічаць французскага лінгвіста Ж. Жыльерона. Ён вызначыў яе метадалагічныя асновы і разам са сваім памочнікам Э. Эдмонам стварыў «Лінгвістычны атлас Францыі» (выданне завершана ў 1912 г.).

Лінгвагеаграфічныя даследаванні ў Расіі да 1917 г. не атрымалі пашырэння, хоць патрэба ў іх востра адчувалася. Паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца выказванне заснавальніка нашага мовазнаўства, складальніка першай дыялекталагічнай карты беларускай мовы (1903) Я. Ф. Карскага аб тым, што для вызначэння беларускай моўнай мяжы «лепш было б даць не адну лінгвістычную карту, а некалькі, напрыклад, па колькасці рыс беларускага маўлення». Гэта па сутнасці выказванне пра неабходнасць стварэння атласа беларускай мовы.

Піянерамі лінгвагеаграфіі ў былым СССР выступілі мовазнаўцы Беларусі. Ініцыятарам і асноўным выканаўцам першага лінгвагеаграфічнага даследавання беларускіх гаворак быў П. А. Бузук (гл. **Бузук Пётр Апанасавіч**). Рэалізаваць сваю вялікую і цікавую праграму яму, на жаль, не ўдалося, паколькі ў пачатку 1934 г. ён быў беспадстаўна арыштаваны. Выйшаў у свет толькі адзін выпуск задуманага ім атласа «Спроба лінгвістычнае геаграфіі Беларусі» (1928). Пасля 1-й усесаюзнай дыялекталагічнай канферэнцыі (1938) паводле рэкамендацый Дыялекталагічнай камісіі на Беларусі пачалі праводзіцца работы па стварэнні дыялекталагічнага атласа. Але здзяйсненню планаў перашкодзіла Айчынная вайна.

Праца па стварэнні атласа беларускай мовы нанова распачалася ў 1946 г. Была прынята да ажыццяўлення ў межах БССР праграма лінгвагеаграфічных даследаванняў усходнеславянскіх моў, а з 1947 г. пачаўся збор звестак ужо непасрэдна для атласа (сетка апорных населеных пунктаў распрацоўвалася, зыходзячы з адлегласці паміж імі 10—15 км; сабраны былі звесткі аб гаворках больш як 1200 вёсак, канчатковая сетка — 1027 населеных пунктаў). Апытальнік меў на мэце стварэнне атласа універсальнага характару: ён уключаў пытанні з фанетыкі, граматычнага ладу і слоўніка, аднак слоўнікавая частка ў ім даволі сціплая. «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (гл. **«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы»**) выйшаў у 1963 г. Ён адлюстроўвае на лінгвістычных картах размяшчэнне вялікай колькасці разнастайных асаблівасцей мясцовай беларускай народнай мовы. Таму ў цэлым гэта як бы даволі дэталёвы здымак яе стану ў сярэдзіне нашага стагоддзя.

Слоўнікаваму складу гаворак Беларусі прысвечаны спецыяльны «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» у 5 тамах (149 апорных населеных пунктаў, апытальнік уключае 3972 пытанні). Першы том атласа — «Жывая прырода» — выйшаў у свет у 1993 г.

Паводле сучаснай класіфікацыі «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» адносіцца да першага пакалення лінгвістычных атласаў. Беларускія мовазнаўцы прымаюць зараз удзел у стварэнні лінгвістычных атласаў наступных пакаленняў. Праводзіцца лінгвагеаграфічнае даследаванне часткі беларуска-украінскага моўнага сумежжа. Падобныя лінгвістычныя атласы, гэтаксама як і атласы асобных дыялектных частак мовы, адносяць да другога пакалення. Шмат гадоў ідзе праца над стварэннем лінгвістычнага атласа славянскіх моў, у якім бяруць удзел і беларускія мовазнаўцы. У 1988 г. выйшлі ў свет першыя 2 выпускі «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа» — лексікасловаўтваральны выпуск «Жывёльны свет» (Масква) і фанетыка-граматычны выпуск «Рэфлексы *ě» (Бялград), а ў 1990 г.— 2 часткі другога фанетыка-граматычнага выпуску «Рэфлексы Q» (Масква і Варшава). Складзены карты да некалькіх наступных выпускаў. Гэты атлас цэлай сям'і роднасных моў уваходзіць у склад лінгвістычных атласаў трэцяга пакалення. Нарэшце, мовазнаўцы нашай рэспублікі збіраюць і апрацоўваюць звесткі пра беларускія гаворкі для «Лінгвістычнага атласа Еўропы» — аднаго з першых лінгвістычных атласаў чацвёртага пакалення. Выйшлі ў свет ужо 3 выпускі. Гэта атлас сямей і груп разнастайных сумежных моў народаў у межах Еўропы.

Лінгвістычныя атласы розных пакаленняў адрозніваюцца паводле задач, ступені складанасці праведзеных лінгвагеаграфічных даследаванняў і характару адлюстравання іх вынікаў. Пакаленні атласаў — гэта не проста паслядоўнасць станаўлення іх тыпаў, а найперш этапы развіцця лінгвістычнай геаграфіі, паглыблення і ўзбагачэння яе метадалогіі.

Значэнне лінгвагеаграфічных даследаванняў заключаецца ў тым, што пры дапамозе карт можна дэталёва раскрыць усю разнастайнасць форм бытавання моўных з'яў на пэўнай тэрыторыі. Комплексы ж лінгвістычных карт у атласах і лінгвістычныя атласы ў цэлым з'яўляюцца дакладным адбіткам таго, у якіх адносінах знаходзяцца розныя моўныя з'явы паміж сабой па будове, межах пашырэння, паходжанні і інш. Лінгвістычныя атласы, інакш кажучы, адлюстроўваюць і раскрываюць рэальныя аб'ектыўныя заканамернасці сістэмных і тэрытарыяльных сувязей моўных з'яў, а таксама іх развіцця. Даследаванню падобных заканамернасцей прысвячаюцца ў лінгвістычных атласах так званыя зводныя, або абагульняльныя, карты. «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» быў завершаны асобным зборам такіх абагульняльных лінгвістычных карт — працай «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69). На картах у гэтай працы адлюстраваны рэальныя сувязі паміж формамі бытавання розных з'яў фанетыкі, граматыкі і лексікі ў гаворках Беларусі, устаноўлены тэрытарыяльныя сістэмы падобных форм — дыялекты, дыялектныя зоны, групы гаворак і іх пашырэнне. Паказаныя на зводных картах збліжэнні і перапляценні ізаглос моўных з'яў, характэрных для ўстаноўленых дыялектных сістэм, адлюстроўваюць складаныя і разнастайныя адносіны паміж імі.

*Літ.:* Карский Е. Ф. Белорусы. Введение в изучение языка и народной словесности. Вильна, 1904; Общеславянский лингвистический атлас: Вступит. выпуск. Общие принципы. Справоч. материалы. М., 1978; Блінава Э., Мяцельская Е. Беларуская дыялекталогія. Мн., 1980; Самуйлік Я. Р. Некаторыя асаблівасці гаворак Выганаўскага Палесся // Бел. лінгвістыка. Мн., 1987. Вып. 32; Крывіцкі А. А. Што такое лінгвагеаграфія. Мн., 1986; Atlas Linguarum Europae. V. 1. Commentaires. Premier fascicule 1; V. 1. Cartes. Premier fascicule 1. Assen, 1983. *А. А. Крывіцкі.*

## «ЛІСТ ДА АБУХОВІЧА»

«Ліст да Абуховіча» — такую назву далі гісторыкі старажытнага беларускага пісьменства аднаму з яго найбольш яркіх помнікаў, які ўзнік, калі прытрымлівацца той даты, што пазначана ў самім помніку, у 1655 г. Напісаны невядомым аўтарам (магчыма, Цыпрыянам Камунякам, шляхціцам ці то з Мазыра, ці то з Навагрудчыны) у форме прыватнага, нават як бы сяброўскага паслання (ліста) да Піліпа Казіміра Абуховіча — рэальнай гістарычнай асобы часоў старажытнай Рэчы Паспалітай, у склад якой уваходзіла Беларусь. Абуховіч, выхадзец з буйной паланізаванай шляхты Мазырскага павета, даслужыўся ў польскага караля да высокай пасады смаленскага ваяводы, якую атрымаў у верасні 1653 г. Праз год у ходзе вайны паміж Маскоўскай дзяржаваю і Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. ён пасля 110-дзённай аблогі Смаленска рускім войскам без бою здаўся яму са сваім даволі моцным гарнізонам. Пры гэтым яму і яго войску была дадзена магчымасць вярнуцца на радзіму і нават забраць сваю маёмасць. Ваявода, паводле слоў аўтара помніка, вывез са Смаленска мноства дабра, толькі адной пасцелі аж на трохстах падводах. Усё гэта выклікала падазрэнне, што Абуховіч быў падкуплены рускімі і наўмысна здаў горад. Такой думкі прытрымліваўся і аўтар помніка. Падняліся галасы абурэння, справа дайшла да разгляду ў польскім сейме. І толькі ў 1658 г., пасля смерці Абуховіча, якая наступіла ў 1656 г., яго сынам удалося зняць з бацькі абвінавачанне ў здрадзе.

Канкрэтны факт здачы Смаленска — фарпоста Рэчы Паспалітай на яе ўсходніх рубяжах — і з'явіўся асновай для стварэння помніка — з'едлівага палітычнага памфлета, накіраванага на выкрыццё хціваспі і прадажніцтва сацыяльных вярхоў, іх бяздарнасці ў дзяржаўным кіраванні. Хоць у памфлеце гаворка ўвесь час вядзецца вакол гэтага канкрэтнага факта і аўтар не адыходзіць далёка ад сваёй галоўнай мэты — паказаць гнюснасць паводзін былога смаленскага ваяводы, абвінавачанне ў амаральнасці пашыраецца па сутнасці на ўсю тагачасную служылую шляхту.

Помнік невялікага аб'ёму, у сучасных выданнях займае няпоўныя тры старонкі друкаванага тэксту. Тым не менш даследчыкі характарызуюць яго як этапную з'яву ў гісторыі беларускай літаратуры. Разам з другім падобным да яго помнікам — «Прамовай Мялешкі», створаным у пачатку 17 ст., ён засведчыў паварот тагачаснай беларускай літаратуры да дэмакратызацыі, узмацнення сувязей з фальклорам, адыходу ад традыцыйных кніжных канонаў з іх жорсткай жанрава-стылявой рэгламентацыяй,— і ў адносінах зместу, адбору тыповага жыццёвага матэрыялу, і ў адносінах формы, спосабаў і прыёмаў яго мастацкага адлюстравання. Гэта вызначыла адметнае месца помніка і ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы.

Сістэму моўных рыс помніка, асабліва ў правапісе і граматыцы, дакладна выявіць цяжка. Помнік не дайшоў да нас у сваім першапачатковым выглядзе, а толькі ў трох пазнейшых спісах: адэскім сярэдзіны 18 ст., кракаўскім і віленскім 19 ст. Першы і другі напісаны лацінскімі літарамі, трэці — кірылаўскімі. Трэба думаць, перапісчыкі не маглі не ўнесці ў мову помніка нешта сваё, адмысловае, мянялі не толькі асобныя словы і выразы, але і іх афармленне. Ды і самі спісы рабіліся ва ўмовах адсутнасці сталых правіл перадачы беларускай мовы на пісьме. Спецыфічныя рысы яе фанетыкі — аканне, дзеканне і цеканне, чарґаванне *в* і *л* з *ў*, зацвярдзенне шыпячых і *р* і інш.— адзначаюцца ў спісах непаслядоўна. Няма паслядоўнасці і ў выкарыстанні граматычных формаў. І ўсё ж беларускі каларыт вельмі моцна праяўляецца на кожным узроўні моўнай структуры спісаў. Бясспрэчна, што гэтая асаблівасць — ад самога арыгінала, аўтар якога рашуча звярнуўся да сродкаў жывога народнага маўлення, фальклору. У помніку выкарыстана агульнаўжывальная беларуская лексіка і фразеалогія, ён шчодра насычаны вуснапаэтычнымі выслоўямі (прыказкамі, прымаўкамі, устойлівымі параўнаннямі), напрыклад: *Мудрост велікая, кажут людзе: свіня, колі много хто ее зажывает, то нічога не дбает, а колі чловік надто укусіт, і постагнаць мусіць; сэдіт высоко, говорыт глыбоко; уваляусе у велікою славу, як сьвіня ў граз; надулсе у сенаті, как петух галагускій* і інш. Сінтаксіс яго вызначаецца прастатой, выразнасцю канструкцый, своеасаблівай рытмічнай арганізацыяй. Словы ў сказах нярэдка рыфмуюца: *лепей было, пане Філіпе, сэдэт у Ліпе; в ногу цаловалі і грошы побралі; а коліб... пісаром быв, то чоловеком слыв* і інш. Пра Абуховіча і яго ўчынкі аўтар гаворыць з іроніяй і сарказмам.

Вось пачатак помніка (паводле адэскага спіса з пераводам лацінкі на кірыліцу): *Мілостывы пане Обуховіч, а мой ласкавы пане. З умыслу моего посылаю служку нашого давного, пана Евхіма Говорку, одвешчаючы доброе здорове Вашэй Мілосьці, чылі нездорове, в якім, на тот час, мілостівы Господ ховат рачыт посьле того пэрэпуду Московского. І так знаю, што нудно Вашэй Мілосьці па жывоте* [г. зн. у жыцці.— Л. Ш.]. *Не гневайсе, твоя милосьт, на мэнэ, шчо тытулу воеводзского не доложыв: напісавшы я воеводою Смоленьскім, то б я солгал; напісавшы опят бэзвоеводзкім, то бы се Ваша Мілосьць гневав, хоц нет за што. Я так розумею: колі Смоленьск продалі, то й тытул продалі. Много людэй об том звешчалі, што люде й грошы побралі. Лепей было, пане Філіпе, сэдэт у Ліпе* (радавым маёнтку.— Л. Ш.). *А тос уваляусе у велікою славу як сьвіня ў граз. Горш то се стало, колі хто упадет в новым кажусе в густое болото. У злом розуменю, в обмовах людзкіх у соромоті, сэдіт, как д'явэл у дуплі. От нам за тое, што дэшаво Москва соболі прадавала: всю Русь з людмі одэбрала. І колі мы обачылі густые соболіе колнеры, познaлі зараз, што худо будут бітся нашые жолнеры...*

Тут нямала з'яў, якія не характэрны для беларускай мовы. Некаторыя з іх — вынік няўдалай перадачы перапісчыкам помніка яе слоў і формаў на пісьме (напрыклад, неабазначэнне мяккасці зычных у такіх выпадках, як *граз* замест *гразь, ховат* замест *хаваць, хоц* замест *хоць, сэдэт* замест *сядзець, на мэнэ* замест *на мяне*). Частка адхіленняў ад асаблівасцей беларускай мовы зроблена пад уздзеяннем традыцыйных правіл пісьма (напісанні з *о* ненаціскным тыпу *мілостывы, Обуховіч, моего* або з *в* замест *ў* тыпу *в якім*). Заўважаюцца вузкамясцовыя рысы (напрыклад, *в соромоті, у дуплі, Смоленьск*) і іншамоўныя ўплывы (польскай мовы: *ховат рачыт, люде, то бы се гневав, то се стало* і інш.; рускай: *опят, нет*; украінскай: *шчо* і інш.).

Такія рэчыназіраюцца і ў іншых месцах помніка. Аднак помнік чытаецца без цяжкасці, бо мова яго ў сваёй аснове народна-гутарковая, далёкая ад той, што выкарыстоўвалася ў традыцыйных жанрах старажытнага пісьменства. Стылістычныя прыёмы, характэрныя для такіх помнікаў, як «Прамова Мялешкі» і «Ліст да Абуховіча», знайшлі далейшае развіццё ў беларускай літаратуры і садзейнічалі паслядоўнаму замацаванню ў ёй народнай мовы.

*Тв.:* Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1. Мн., 1961. С. 439—442.

*Літ.:* Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1985. С. 200—203.

*Л. М. Шакун.*

## ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА

Літаратурная мова — апрацаваная, упарадкаваная і нармалізаваная форма агульнанароднай мовы, прызначэнне якой — абслугоўваць разнастайныя сферы грамадскай дзейнасці чалавека. Гэта мова школы, навукі, друку, радыё, тэлебачання, мастацкай літаратуры, дзяржаўных устаноў. Яна з'яўляецца сродкам развіцця грамадскага жыцця, матэрыяльнага і духоўнага прагрэсу народа, а таксама сродкам выхавання народных мас і далучэння іх да нацыянальнай культуры, навукі, тэхнікі.

Для літаратурнай мовы характэрны пісьмова замацаваныя нормы. Паняцце нормы — цэнтральнае ў вызначэнні нацыянальнай літаратурнай мовы. Нормы літаратурнай мовы ў аснове сваёй стабільныя, аднак практыка вусных і пісьмовых зносін выклікае некаторыя змены ў вымаўленні, правапісе, ва ўжыванні асобных слоў і іх форм.

Нармаванасць літаратурнай мовы заключаецца ў тым, што значэнне і ўжыванне слоў, вымаўленне і правапіс у ёй рэгламентаваны, форма- і словаўтварэнне падпарадкоўваюцца агульнапрынятым узорам. Апрацаванасць, адбор моўных сродкаў і іх адносная рэгламентацыя з'яўляюцца нязменнай і пастаяннай уласцівасцю літаратурнай мовы, якая найбольш поўна выражае яе спецыфіку. Паняцце нормы, аднак, не выключае ў асобных выпадках варыянтаў, што адлюстроўваюць змены, якія пастаянна адбываюцца ў мове як сродку чалавечых зносін.

Літаратурная мова — катэгорыя гістарычная: ступень апрацаванасці, строгасць адбору і рэгламентацыі моўных сродкаў могуць быць неаднолькавымі не толькі ў розных літаратурных мовах, але і ў розныя перыяды гісторыі адной і той жа мовы. Агульны змест паняцця «літаратурная мова» атрымлівае канкрэтызацыю ў залежнасці ад гістарычных умоў яе фарміравання, развіцця і функцыяніравання. Абавязковай умовай узнікнення літаратурнай мовы і агульнай рысай на ўсіх этапах яе развіцця з'яўляецца пісьменства. Адна з асноўных асаблівасцей літаратурнай мовы — складанасць і разнастайнасць сістэмы моўных сродкаў. Літаратурная мова мае дзве формы — вусную і пісьмовую, якія характарызуюцца пэўнымі асаблівасцямі ў лексіцы і граматычнай структуры, бо разлічаны на розныя віды ўспрыняцця — слыхавое і зрокавае. Пісьмовая мова адрозніваецца ад вуснай больш складаным сінтаксісам, наяўнасцю большай колькасці абстрактнай і тэрміналагічнай лексікі, у прыватнасці інтэрнацыянальнай. Пісьмовая форма спрыяе ўстойлівасці літаратурнай мовы. У залежнасці ад мэт і ўмоў зносін у пісьмовай літаратурнай мове выдзяляюцца стылявыя разнавіднасці. Функцыянальная нагрузка літаратурнай мовы ў розных гістарычных умовах неаднолькавая, прычым вызначальную ролю тут адыгрывае ўзровень развіцця грамадства, агульнай культуры народа. Да эпохі ўтварэння нацыі літаратурная мова існуе пераважна ў пісьмовай форме, функцыі і сфера выкарыстання яе больш вузкія, унармаванасць значна меншая. Старабеларуская мова, напрыклад, у перыяд феадалізму ў Вялікім княстве Літоўскім выкарыстоўвалася ў дзяржаўным справаводстве, абслугоўвала тагачасную навуку і літаратуру (гл. **Старабеларуская літаратурная мова**). У гісторыі многіх народаў бываюць перыяды, калі літаратурнай мовай з'яўляецца чужая мова (латынь у еўрапейскіх краінах як мова каталіцкай царквы, медыцыны, юрыспрудэнцыі; стараславянская мова ва ўсходніх і паўднёвых славян; арабская мова ў некаторых цюркскамоўных народаў; тыбецкая і маньчжурская мовы ў Манголіі; літаратурнай мовай у іранскіх народаў доўгі час была класічная арабская мова, у японцаў і карэйцаў — кітайская). Такая мова незразумелая народу, ёй карысталася пераважна адукаваная частка грамадства (пісьменнікі, вучоныя, дзяржаўныя дзеячы). У перыяд фарміравання нацыі чужыя мовы, пакінуўшы некаторыя свае рэлікты ў лексіцы (радзей — у граматыцы) агульнанацыянальнай мовы ці асобных яе стыляў, выцясняюцца новымі літаратурнымі мовамі.

Нацыянальная літаратурная мова звычайна фарміруецца і развіваецца з мовы народнасці, дакладней — з якога-небудзь яе дыялекту, што найбольш поўна адлюстроўвае агульныя тэндэнцыі развіцця адпаведнай мовы. Па сваім слоўнікавым складзе і граматычных асаблівасцях такі дыялект звычайна з'яўляецца найбольш тыповым у сістэме дыялектаў адпаведнай мовы. Так было, напрыклад, пры ўтварэнні рускай нацыянальнай мовы, якая сфарміравалася пад уплывам паўднёвавелікарускіх гаворак, пры ўтварэнні ўкраінскай нацыянальнай мовы, у аснове якой — палтаўска-кіеўскі дыялект.

У аснову нацыянальнай беларускай літаратурнай мовы ляглі гаворкі цэнтральнай Беларусі (зона Ашмяны — Мінск — Барысаў). У працэсе развіцця яна ўвабрала і ўбірае ў сябе найбольш тыповыя рысы паўднёва-заходніх і паўночна-ўсходніх беларускіх дыялектаў, адначасова ўзбагачаецца (асабліва ў лексіцы) запазычаннямі з роднасных рускай і ўкраінскай, а таксама іншых моў. Літаратурная мова цесна ўзаемадзейнічае з дыялектамі, пастаянна папаўняецца за іх кошт. Разам з тым літаратурная мова ўплывае на дыялекты, спрыяючы іх уніфікацыі (гл. **Дыялектная мова**).

У ідэале літаратурная мова заўсёды разлічана на агульнанароднае ўжыванне. Адсюль прынцып генералізацыі форм і катэгорый, нават калі іх крыніцы мясцовыя, лакальныя. Наяўнасць адзінай для ўсёй нацыі нармаванай літаратурнай мовы з'яўляецца асноўнай адзнакай развітай нацыянальнай мовы ў адрозненне ад мовы народнасці.

Літаратурная мова — вышэйшая форма нацыянальнай мовы (гл. **Нацыянальная мова**), носьбіт і пасрэднік культуры і цывілізацыі. Пранікаючы ва ўсе сферы народнага жыцця, яна паступова становіцца адзінай формай агульнанароднай мовы. Для літаратурнай мовы эпохі нацыі характэрны наступныя агульныя асаблівасці: апрацаванасць, упарадкаванасць, нарматыўнасць, узаконеная грамадствам; стабільнасць, бесперапыннасць традыцыі, дзякуючы чаму змены, што пастаянна адбываюцца ў мове, не падрываюць асноў літаратурнай мовы; абавязковасць для ўсіх членаў калектыву, які валодае літаратурнай мовай; вядучая роля ў сістэме разнавіднасцей нацыянальнай мовы, развітая стылістычная дыферэнцыяцыя, універсальнасць (абслугоўванне ўсіх сфер зносін). У большасці літаратурных моў рысы універсальнага сродку зносін фарміруюцца ў выніку пранікнення літаратурнай мовы ў дзяржаўнае кіраванне, навуку, вышэйшую адукацыю, што вядзе да змен у сістэме функцыянальных стыляў, складзе лексікі (ствараецца грамадска-палітычная і навуковая тэрміналогія) і ў сінтаксісе. Гэта датычыць і моў з працяглай пісьмова-літаратурнай традыцыяй (грузінская, украінская, армянская літаратурныя мовы і інш.).

У гістарычным развіцці некаторых народаў могуць суіснаваць дзве літаратурныя мовы (мардоўскі народ у Мардовіі мае 2 раўнапраўныя варыянты літаратурнай мовы — эрзянскі і макшанскі). На Беларусі ў мінулым існавала літаратурна-пісьмовае шматмоўе: першапачатковае царкоўнаслав янскае беларускае пісьмовае двухмоўе пазней дапоўнілася польскай і лацінскай літаратурнымі мовамі. У пазнейшы час беларуская літаратурная мова суіснавала паралельна з рускай з пэўнымі размежаваннямі ў жанрава-стылістычных функцыях.

Літаратурная мова шліфуецца і ўдасканальваецца паступова ў працэсе развіцця і ўзбагачэння ўсёй культуры народа, перш за ўсё — яго мастацкай літаратуры. Выдатная роля ў фарміраванні беларускай літаратурнай мовы належыць Я. Купалу, Я. Коласу, К. Чорнаму, К. Крапіве і іншым класікам айчыннай літаратуры.

У працэсе фарміравання асобных роднасных літаратурных моў дзейнічае так званы прынцып «узаемадапамогі». Ва ўтварэнні беларускай нацыянальнай мовы пэўную ролю адыгралі руская, украінская і польская мовы, балгарскай — руская і г. д. Сучасная беларуская літаратурная мова выпрацавала стройную сістэму граматычных, лексічных, арфаграфічных і арфаэпічных норм. Яна даўно стала аб'ектам лінгвістычнай навукі. Даследуюцца ўсе ўзроўні мовы, апісваюцца і аналізуюцца ўсе моўныя з'явы. Для кожнай літаратурнай мовы характэрны свае асаблівасці ў структуры, яе функцыях, паходжанні. Своеасаблівасць літаратурных моў можа быць раскрыта толькі шляхам іх параўнальна-тыпалагічнага вывучэння. Паводле паходжання і структурных прыкмет руская і беларуская мовы, напрыклад, блізкароднасныя. Аднак паміж імі ёсць істотныя адрозненні, адно з

якіх — адносіны да царкоўнаславянскіх кніжных элементаў. Роля апошніх у рускай мове больш значная, чым у беларускай.

Паняцці «літаратурная мова» і «мова мастацкай літаратуры» суадносныя, але не тоесныя. Мастацкая літаратура — толькі адна са сфер выкарыстання літаратурнай мовы. У мастацкім стылі з мэтай ідэйна-мастацкага ўздзеяння ўжываюцца і формы слоў з прастамоўя, мясцовых дыялектаў, жаргонаў, а таксама элементы індывідуальнай словатворчасці пісьменнікаў. Мэта мастацкай літаратуры не толькі камунікатыўная, але і эстэтычная. Беларуская літаратурная мова стала шматфункцыянальнай развітой мовай беларускай нацыі, найбольш дасканалым сродкам выказвання думак і абмену інфармацыяй, найкаштоўнейшым нацыянальным духоўным здабыткам. Актыўнаму яе развіццю ў наш час садзейнічае закон «Аб мовах у Беларускай ССР» ад 26 студзеня 1990 г., які абвясціў беларускую мову дзяржаўнай мовай Беларусі (гл. **Дзяржаўная мова**).

*Літ.:* Виноградов В. В. Проблемы литературных языков и закономерности их образования и развития. М., 1967; Яго ж. Литературный язык // Виноградов В. В. Избр. труды: История рус. лит. языка. М., 1978; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Общее языкознание: Формы существования, функции, история языка. М., 1970; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984.

*Т. П. Бандарэнка.*

## ЛІТОЎСКАЯ МОВА

Літоўская мова — нацыянальная мова літоўцаў і дзяржаўная Літоўскай Рэспублікі, дзе на ёй размаўляе каля 2,7 млн. чалавек (паводле перапісу 1989 г.). Больш за паўмільёна літоўцаў жывуць за мяжой (пераважна ў ЗША, Бразіліі, Аргенціне, Польшчы, Канадзе). Належыць, разам з латышскай, да ўсходняй падгрупы балтыйскіх моў. Вытокі пісьмовай мовы звязаны з Усходняй Прусіяй, дзе Марцінас Мажвідас у Кёнігсбергу надрукаваў першую літоўскую кнігу «Катэхізіс» (1547). Першая друкаваная кніга на тэрыторыі сучаснай Літвы («Катэхізіс» М. Даўкшы) выйшла ў 1595 г. ў Вільні, тут жа К. Шырвідас у 1629 г. выдаў першы слоўнік літоўскай мовы (польска - лацінска-літоўскі). Вялікае значэнне для нармалізацыі літоўскай мовы мелі граматыкі Д. Клейна (1663, 1664) і К. Сапунаса (выдадзена Т. Шульцам у 1673 г.). На пачатку і ў сярэдзіне 19 ст. на моўнай ніве працавалі Д. Пошка, С. Даўкантас, М. Валанчус. Шмат зрабілі для навуковага апісання мовы аўтары граматык А. Шлейхер (1856), Ф. Куршайціс (1876). Як літаратурная, літоўская мова канчаткова склалася ў канцы 19 — пач. 20 ст. на аснове паўднёвых гаворак заходнеаўкштайцкага дыялекту, якія захавалі найбольш старажытную фанетычную сістэму мовы. Вырашальны ўплыў на яе станаўленне і ўнармаванне зрабілі тагачасны перыядычны друк [«Aušra» («Зара»), «Varpas» («Звон»)] і асабліва навуковая дзейнасць мовазнаўца Е. Яблонскіса.

Алфавіт сучаснай літоўскай мовы створаны на лацінскай аснове і складаецца з 32 літар. На форму графікі паўплывалі таксама некаторыя літары чэшскага і польскага алфавітаў. Для сістэмы вакалізму характэрны кароткія *(a, e, i, u)* і доўгія *(ą, ę, ė, y, į, ų, u, o)* галосныя. Другая асаблівасць фанетычнага ладу — наяўнасць дыфтонгаў *(ie, uo, ai, au, ei, ui)*, трыфтонгаў *(ieu, uoi)*, а таксама мяшаных дыфтонгаў *(a, e, i, u + l, m, n, r)* і трыфтонгаў *(ie, uo + l, m, n, r)*. Усе зычныя, за выключэннем *j*, маюць пары па цвёрдасці — мяккасці. Націск рухомы, з дынамічным і музычным элементамі. Інтанацыя бывае сыходная, калі тон рэзка падымаецца і апускаецца (абазначаецца знакам акут′), і ўзыходная — тон падымаецца і апускаецца павольна (цыркумфлекс∼); для ўказання на тое, што націскны склад вымаўляецца коратка, ужываецца гравіс: *káina* .'цана', *laĩkas* 'час', *vìskas* 'усё'.

У граматычную сістэму ўваходзяць 11 часцін мовы, у тым ліку рэдукаваныя дзеясловы тыпу *mìrkt* 'мірг', *lýž*t 'лізь'. У літоўскай мове два роды — мужчынскі і жаночы (прыметнікі, залежныя дзеепрыметнікі і субстантыўныя займеннікі маюць і ніякі род), адзіночны і множны лік (у гаворках і мастацкай літаратуры сустракаецца парны), 5 тыпаў скланення назоўнікаў, 7 склонаў. Месны склон ужываецца без прыназоўнікаў, напрыклад, *mokỹkloje* 'у школе', *namuosè* 'у дамах'. Некалі існавалі 4 тыпы гэтага склону, два з якіх захаваліся толькі ў літоўскіх гаворках на тэрыторыі Беларусі (у ваколіцах Дзятлава, Лаздунаў, Гервятаў). Ужываюцца дзве разнавіднасці прошлага часу — аднакратны і шматкратны. Дзеясловы маюць тры спражэнні, простыя і складаныя формы (утвараюцца шляхам спалучэння дапаможнага дзеяслова *bū̃ti* 'быць' з дзеепрыметнікамі), чатыры лады (ускосны, загадны, умоўны і абвесны). Апрача дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў, якія маюць усе чатыры формы часу, ёсць паўдзеепрыметнікі, у гаворках і мастацкай літаратуры ўжываецца супін. З сінтаксічных асаблівасцей вылучаюцца родны прыналежны склон у функцыі прыметніка *(áukso žiedas* 'залаты пярсцёнак'), давальны самастойны, дзеепрыслоўе ў ролі дапаўнення, разнастайныя канструкцыі з дзеепрыметнікамі.

Наяўнасць балцкага субстрату ў этнагенезе беларусаў, а таксама блізкасць гістарычных лёсаў абодвух народаў абумовілі ўзнікненне ў мовах некаторых паралельных з'яў. Так, беларускай мовай і народнымі гаворкамі ў выніку ўзаемадзеяння з літоўскай былі запазычаны літуанізмы тыпу *дзёгаць, клуня, дойлід, рэзгіны, сцірта, парсюк, пуня, шашок* і інш. У літоўскай мове шмат запазычанняў са славянскіх моў (каля 1,5 %), у тым ліку з беларускай ці праз беларускую: *bùlvė* 'бульба', *kmỹnas* 'кмен', *kúbilas* 'кубел', *baravỹkas* 'баравік' *bažnýčia* 'бажніца' і інш. Акрамя лексікі, літоўская і беларуская мовы маюць таксама пэўныя агульныя рысы ў фанетыцы, марфалогіі і сінтаксісе. Гэта пазіцыйная мяккасць зычных: *alksnis* [al'k's'n'is] — 'вольха', *sniẽgas* [s'n'iegas] — *снег* [с'н'е'х], *iš mìško* [išm'iško] — *з лесу* [з'л'е-су]; ятацыя пры збегу галосных: *kiòskas* [k'ij'òskas] — *кіёск;* клічны склон: *draũge — дружа, žmogaũ — чалавеча;* параўнальная ступень прыметнікаў і прыслоўяў з прыназоўнікам *за; gerésniss úz visús — лепшы за ўсіх, ankščiaũ úž visús: — раней за ўсіх;* асобная форма загаднага ладу для выражэння сумеснага дзеяння: *eikime — хадзем, skaitýkime — чытайма*; дробавыя лічэбнікі тыпу *pusañtro — паўтара, pustrẽčio — паўтраця;* структурна-семантычная блізкасць некаторых займеннікаў, прыслоўяў і прыназоўнікаў: *šìs tàs — сёй-той, daũg kàs — шмат хто, kadà ne kadà — калі-нікалі, dė̃l drasõs — дзеля смеласці, pavė́lavaũ peř tavę̃s — спазніўся праз цябе;* агульная валентнасць паасобных дзеясловаў: *dė́kóti* (kam) — *дзякаваць* (каму), *juõktis* (iš ko) — *смяяцца* (з каго); канструкцыі і спалучэнні тыпу *ligónnini pagerė̃jo — хвораму палепшала, bùvo matýti mìškas — быў відаць лес, kàs girdė̃ti — што чуваць;* пераважнае ўжыванне роднага склону з адмоўем: *negā̃li skaitýti knỹgos — не можа чытаць кнігі;* канструкцыі з дзеясловам *мець: àš turiù knỹgą — я маю кнігу, susirinkìmas tùri įvỹkti vakarè — сход мае адбыцца ўвечары;* даслоўнае супадзенне спалучэнняў тыпу *statýti nā̃mą — ставіць хату, dìrbti dárbą — рабіць работу, sapnúoti sā̃pną — сніць сон* і іншыя асаблівасці.

Пасля 1917 г. на тэрыторыі Беларусі ствараліся спрыяльныя ўмовы для моўнага і культурнага развіцця аселага тут літоўскага насельніцтва. У 1925 годзе адчыніліся дзве першыя нацыянальныя школы (Полацкая акруга), а ў 1932 годзе іх было ўжо 12. На тэрыторыі Заходняй Беларусі пасля яе ўз'яднання з БССР працавала 61 літоўская школа. Пасля вайны яны ўзнавілі сваю дзейнасць толькі ў другой палове 50-х гадоў, калі ў Астравецкім і Воранаўскім раёнах бы-

лі адчынены 11 вясковых школ з літоўскай мовай як прадметам. Развівалася і выдавецкая дзейнасць. На 1932 год была выдадзена 21 назва кніг і брашур на літоўскай мове агульным тыражом 35 тыс. экземпляраў. У Мінску выходзілі газета «Raudonasis artojas» («Чырвоны араты») і альманах «Po raudoną̨ja vėliava» («Пад чырвоным сцягам»). Пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі існавала літоўская секцыя. На літоўскую мову былі перакладзены паэма Я. Купалы «Над ракой Арэсай», творы Я. Маўра, А. Якімовіча.У Беларускай акадэміі навук быў літоўскі сектар, супрацоўнікі якога ў 1934 годзе выдалі «Беларуска-літоўскі і руска-літоўскі тэрміналагічны слоўнік» (1-ы сшытак), які змяшчаў грамадска-палітычную лексіку. На сучасны момант у Беларусі вядзецца работа па складанні літоўска-беларускага слоўніка. Беларусамі ў Літве падрыхтаваны беларуска-літоўскі размоўнік.

Беларуска-літоўскія моўныя сувязі даследаваліся ў навуковых працах беларускіх мовазнаўцаў Я. Ф. Карскага, М. В. Бірылы, А. А. Вяржбоўскага, В. А. Жучкевіча, В. М. Чэкмана. Шмат увагі аддаюць гэтай праблеме літоўскія даследчыкі (А. П. Ванагас, А. Е. Грынавецкене, В. Рымша, М. К. Сівіцкене), а таксама вучоныя з іншых рэспублік: Т. М. Суднік (Масква), А. П. Непакупны (Кіеў).

У галіне мастацкага перакладу з літоўскай мовы на беларускую плённа працуе А. Разанаў.

*Літ.:* Лексічныя балтызмы ў беларускай мове. Мн., 1969; Л а у ч ю т е Ю. А. Словарь балтизмов в славянских языках. Л., 1982; Грамматика литовского языка. Вильнюс, 1985; О р в и д е н е О. Д. Учебник литовского языка. Вильнюс, 1985; Lietuvių kalbos gramatika. T. 1—3. Vilnius, 1965—76; K a z l a u s k a s J. Lietuvių kalbos istorini gramatika. Vilnius, 1968.

*І. В. Войніч, У. М. Свяжынскі.*

## ЛІЧЫЛКІ

Лічылкі — адзін з жанраў дзіцячага фальклору, невялікія вершаваныя творы, найчасцей гумарыстычнага характару, з дапамогай якіх вызначаецца чарговасць у гульні, выбіраюцца ўдзельнікі або вядучыя. Вызначаюцца дакладным рытмам, які арганізуе лічылкавы верш незалежна ад яго сэнсавай напоўненасці яркай, але даступнай дзецям вобразнасцю і прастатой мовы: *Сем семярэй // І сямёра свіней // Свінка і свінчын брат // І сямёра парасят; Нітачка, іголачка // Выйдзі, камсамолачка; Пятро, Пятро // Падай вядро // Карове піць — Табе жмурыць.* Лічылка павінна быць лёгкая для вымаўлення, што забяспечваецца адпаведным арсеналам выяўленчых сродкаў. Як правіла, лічылкі пазбаўлены слоў, дзе збег зычных абцяжарвае плаўнае, мернае скандзіраванне, словы падбіраюцца з дастатковай колькасцю галосных гукаў. Як і іншым творам дзіцячага фальклору, лічылкам уласцівы словы з памяншальнымі суфіксамі: *нітачка, іголачка, жабка, сабачка* і г. д. Суфіксальныя формы характэрныя і для так званых «мудрагелістых» слоў, для эквівалентаў лічэбнікаў.

У параўнанні з іншымі жанрамі фальклору лексіка лічылак не вылучаецца вялікай разнастайнасцю і багаццем, але ўключае спецыфічныя, толькі лічылкам уласцівыя групы. Гэта розныя варыяцыі лічэбнікаў і «мудрагелістыя» словы. У залежнасці ад лексічнага складу лічылкі бываюць: з пералікам, з мудрагельствам і лічылкі без іх. Апошнія зближаюцца з іншымі творамі дзіцячага фальклору, і адметнасць іх не столькі ў характары слоўнікавага матэрыялу, колькі ў спецыфічным наборы структураўтваральных элементаў. Гэта найперш заключныя формулы, указанне на таго, хто выбывае з гульні або становіцца вядучым: *Хто не верыць, выйдзі вон!; Чыкін-пікін, пальчык выкінь; Выбірай адзін кулак; Радзівон, выйдзі вон!* і г. д.

У канцоўцы лічылкі часты зварот, выражаны асабовым ці агульным імем. Асабовыя імёны не маюць дачынення да ўдзельнікаў гульні, іх ужыванне абумоўлена рыфмай і рытмікай твора. Сустракаюцца і грубаватыя звароты *(адыдзі, дурак, ад нас)*, якія ў лічылках не маюць адцення абразы, як у дражнілках, бо не наўмысна накіраваны на асобу. Гэта як бы дражнілка агульнага характару. Абразлівасць можа зняць памяншальна-ласкальны суфікс *-ок (дурачок)* ці замена слова ў варыянце гэтага твора іншым *(ваўчок)*. Завяршэннем ў лічылках могуць быць таксама выклічнікі ці гукаперайма льныя словы *(мяў, хлоп, бац)*: *Ішоў Ціхан па масту, // Праваліўся ў ваду. // Бульк!* Даволі часта завяршэнне лічылкі (выхад) можа непасрэдна не вынікаць з усяго зместу твора, а далучацца як неабходны атрыбут жанру: *Бег зай па бару, // Абіраў лебяду. // Рваў, клаў у пучок, // Выбірайся, ваўчок.*

Наяўнасць ў канцоўках слоў *крэст, дэкс*, што азначала завяршэнне справы, сведчыць пра старадаўняе паходжанне гэтага віду фальклорнай творчасці. На гэта ўказвае і так званае чуранне: *Чур мяне!; Чур-чура!* і інш. Значэнне слова «чур» не растлумачана. Звязваюць яго са старажытнай міфалагічнай істотай, родам (адсюль і «прашчур»), лічаць таксама эўфемічным выразам замест слова «чорт». Як бы там ні было, а само паняцце «чур» узыходзіць да нейкіх вераванняў і захаванне яго ў дзіцячых гульнях — даніна далёкім уяўленням.

У працэсе развіцця лічылкі пашыраюць межы тэм, узбагачаюцца лексічна. Крыніцы папаўнення — самыя розныя: дзіцячая творчасць, кніжная літаратура, фальклор і г. д. Таму ў іх побач суіснуюць казачныя персанажы і вобразы, звязаныя з традыцыйным сялянскім побытам і з'явамі сучаснага гарадскога жыцця. Актыўна пранікаюць у лічылкі геаграфічныя назвы *(Амерыка, Кітай, Волга, Ленінград)*, а таксама лексіка, звязаная з навукова-тэхнічным прагрэсам *(робат, ракета)*.

Як ва ўсіх творах дзіцячага фальклору ў лічылках шырока прадстаўлены жывёльны свет. У іх *курка* ходзіць па таку, *курыца-квактуха* водзіць дзяцей, *зязюля* лётае міма саду *і кліча птушанят*, *кошка* ходзіць *па* раялі, *жабка* плыве па вадзе. Тут і *сабачка-галашыйка*, і *ваўчок*, і *рыба-карась* і інш. Дзейнічаюць у лічылках і іншыя персанажы: *Маланна* з доўгім носам; *лётчык (немец, месяц)*, які пагражае ножыкам; злоўлены *злодзей*, якога вядуць на пакаранне; маленькі *панок*, які *удзіраець без парток; робат; нехта*, хто выпусціў ракету, і г. д. Усе яны ў стане актыўнай дзейнасці, усе нешта робяць, некуды рухаюцца. Таму ў лічылках багацце дзеяслоўных форм, што надае ім экспрэсіўнасць, дынамізм.

Кампазіцыйную ролю ў лічылках адыгрывае пералік. Ён можа быць асновай тэксту, можа выступаць у ролі зачыну (тыповы прыклад — лічылка пра зайчыка, які *выйшаў пагуляць*), можа ўваходзіць складовым элементам у тканіну твора. Некаторыя лічылкі не ўключаюць пералік, а патрабуюць яго ў адказе на пастаўленае ў канцы пытанне. Побач з прамым, незавуаліраваным пералікам сустракаюцца лічылкі са скажоным, дэфармаваным прыёмам лічэння. Яркі прыклад такіх твораў — лічылка, запісаная М. Я. Нікіфароўскім на Віцебшчыне: *Анцы-цванцы-трынцы-ярынцы-пятым-ладым-муктым-буктым-дэвіс-дэкс.*

Пералік у лічылцы вучоныя слушна звязваюць з далёкай даўніной, тымі ступенямі, якія прайшло чалавецтва, перш чым навучылася лічыць. Скажоныя ж формы лічэння, завуаліраванасць тлумачацца табу слоў, забаронай прамога пераліку.

Часта мудрагелістае пералічэнне спалучаецца з рознымі бяссэнснымі спалучэннямі гукаў або скажонымі словамі (яны могуць быць іншамоўнага паходжання): *Анцы, цванцы, трычы, рычы, эны, бэны, мэны, вэк.* Такія лічылкі прыцягваюць гучнасцю, лёгкасцю вымаўлення, музыкай верша. Да таго ж цяга да іх тлумачыцца асаблівасцямі дзіцячай псіхалогіі: словы без пэўнага сэнсу, маляўнічыя нязвыклыя гукарады захапляюць дзяцей сваёй незвычайнасцю, робяць гульню прыцягальнай, таямнічай. У многіх выпадках мудрагелістыя словы адыгрываюць ролю зачынаў. Такое ж прызначэнне маюць спалу-

чэнні тыпу *аты-баты*, гукаперай-мальныя *цынцы-брынцы*, з якіх звычайна пачынаецца кожны радок дыялагічных лічылак. І хоць сам тэкст без такіх уступаў, як правіла, рытмічна арганізаваны і зрыфмаваны (чатырохстопны харэй з поўнай і ўсечанай чацвёртай стапой, перакрыжаваная рыфма), дзякуючы такім спалучэнням ён набывае кампазіцыйную завершанасць. Такія гукарады расквечваюць тэкст, паэтызуюць яго.

Характэрнай рысай усіх лічылак з'яўляецца гумар, гульнявы характар. Нягледзячы на невялікі памер, лічылкі ствараюць яскравыя вершаваныя малюнкі, у якіх зрокавы вобраз, семантыка і функцыя слова непадзельныя.

*Публ.:* Дзіцячы фальклор/Склад. Г. А. Барташэвіч, В. І. Ялатаў. Мн., 1972.

*Літ.:* Барташэвіч Г. А. Вершаваныя жанры беларускага дзіцячага фальклору. Мн., 1976. *Г. А. Барташэвіч.*

## ЛІЧЭБНІК

Лічэбнік — часціна мовы, да якой адносяцца словы, што абазначаюць абстрактныя лікі, колькасць або парадкавае месца прадметаў пры лічэнні. Лічэбнікі скланяюцца, асобныя лічэбнікі маюць форму роду і ліку. Адметнай сінтаксічнай асаблівасцю з'яўляецца тое, што яны могуць спалучацца толькі з назоўнікамі: *два клёны, першы снег, трое дзяцей.*

Вядома, не ўсе словы, што маюць лічбавае значэнне, у граматыцы прынята адносіць да лічэбнікаў. Слова *нуль*, якое займае пэўнае месца ў лічбавым радзе, кваліфікуецца як назоўнік; да назоўнікаў належаць словы *двойка, тройка, пяцёрка, дзесятка, сотня*, а таксама *тузін* (дванаццаць адзінак), *капа* (шэсцьдзесят адзінак) і пад. Назоўнікамі з'яўляюцца і назвы асобных дробных лікаў: *палавіна (палова), трэць, чвэрць, (чацвярціна, чацвяртушка), васьмушка, сотка* і пад. У лічбавым радзе знаходзяць месца і свабодна арганізаваныя сінтаксічныя спалучэнні, якія называюць дробны лік або цэлы лік разам з дробным: *нуль цэлых і дзве сотыя; нуль і дзве сотыя; нуль, дзве сотыя; нуль-нуль, два.* Гэта ж паняцце можна перадаць і сінанімічным словазлучэннем: *адна пяцідзесятая, тры цэлых і пяць восьмых* (варыянты: *тры і пяць восьмых), дзве трэція (дзве трэці)* і інш.

У адпаведнасці са значэннем вылучаюцца лічэбнікі колькасныя *(два, тры, пяць)*, зборныя *(двое, трое, пяцёра)* і парадкавыя *(другі, трэці, пяты)*, а ў адпаведнасці са структурай — простыя (выражаюцца словам з адным коранем: *два, трое, адзінаццаць, дваццаць, трыццаты)*, складаныя (выражаюцца словамі з двума ці больш каранямі: *пяцьдзесят, дзвесце, двухсоты, стосаракапяцітысячны)* і састаўныя (выражаюцца спалучэннямі некалькіх простых ці складаных слоў, якія называюць адзін лік ці абазначаюць пэўнае месца ў парадкавым радзе пры лічэнні: *сто сорак пяць, трыста шэсцьдзесят сёмы).* У групу колькасных лічэбнікаў уваходзяць словы, якія абазначаюць дакладную колькасць адзінак і ўжываюцца як у колькасна-лічбавым значэнні (у спалучэнні з назоўнікамі — назвамі прадметаў, якія пералічваюцца: *пяць дзён, тры дарогі)*, так і ў абстрактна-лікавым значэнні *(пяць на пяць — дваццаць пяць).* Такія лічэбнікі кваліфікуюцца як пэўна-колькасныя. Да колькасных адносяцца і лічэбнікі, што абазначаюць недакладную, неакрэсленую колькасць: *мала, многа, нямала, нямнога; шмат, няшмат, зашмат; абы-колькі, столькі*, размоўнае *гэтулькі, трохі, крыху.* Такія словы прынята называць няпэўна-колькаснымі лічэбнікамі.

У ролі няпэўна-колькасных лічэбнікаў могуць выступаць асобныя назоўнікі, прыслоўі, займеннікі, якія ў сказе набываюць колькаснае значэнне, напрыклад: няпэўны займеннік *некалькі*, адносны займеннік *колькі*, назоўнікі *мноства, процьма, безліч, цьма* і г. д.

Пэўна-колькасныя лічэбнікі цесна звязаны з дзесяцічнай сістэмай злічэння. У склад першага дзесятка ўваходзяць: слова *адзін* (у лічбавым радзе яно выконвае ролю лічэбніка; як сінонім яму пры лічэнні можа ўжывацца назоўнік *раз: адзін, два, тры...— раз, два, тры...*), простыя лічэбнікі *два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць.* З дапамогай суфіксаў ад гэтых лічэбнікаў утвараюцца назвы лікаў другога дзесятка: *адзінаццаць, дванаццаць* і г. д., а таксама лічэбнікі *дваццаць, трыццаць;* простымі з'яўляюцца і лічэбнікі *сорак, сто.* Два карані вылучаюцца ў лічэбніку *дзевяноста.* Складанымі з'яўляюцца лічэбнікі, якія называюць дзесяткі *(пяцьдзесят, шэсцьдзесят, семдзесят, восемдзесят)* і сотні (*дзвесце, трыста, чатырыста, пяцьсот* і г. д.). Словы *тысяча* і *мільён* кваліфікуюцца як назоўнікі, але ў лічбавым радзе, пры лічэнні, яны набываюць функцыю лічэбнікаў. Для абазначэння вельмі вялікіх лікаў ужываюцца назоўнікі *більён* (сінонім — *мільярд), трыльён, квадрыльён* і г. д., але гэтыя словы выкарыстоўваюцца рэдка. Замест іх ужываюцца прынятыя ў матэматыцы лічбы: $10^9$, $10^{12}$ і інш., якія адпаведна і чытаюцца: *дзесяць у дзевятай ступені, дзесяць у дванаццатай ступені* і г. д. Астатнія лічбы ў лічбавым радзе абазначаюцца састаўнымі лічэбнікамі: *дваццаць адзін, сорак шэсць, сто трыццаць сем* і г. д., пры гэтым састаўны лічэбнік прынята кваліфікаваць як адну лексему. Да колькасных трэба адносіць і лічэбнікі *паўтара, паўтараста*, якія ў сучаснай мове з'яўляюцца астаткамі некалі існаваўшых больш поўных радоў (параўнайце ў сучасных гаворках: *паўтрацця*, г. зн. *два з паловай, паўчварта*, г. зн. *тры з паловай* і г. д., а таксама ў старых летапісах: *полтретьяста, полчетвертаста* і інш.).

Слова *адзін* мае формы роду, ліку і склону (праўда, у форме множнага ліку яно захоўвае значэнне лічэбніка толькі ў спалучэннях з множналікавымі назоўнікамі: *адны сані, адны вароты*; у астатніх выпадках гэта слова набывае значэнне часціцы, параўнайце: *у пакоі сядзелі адны хлопчыкі* — г. зн. *толькі хлопчыкі*). Лічэбнікі *два* і *паўтара* маюць формы роду (мужчынскі і ніякі род — *два, паўтара*; жаночы род — *дзве, паўтары*). Варта заўважыць, што ў саставе складаных слоў, за выключэннем лічэбніка *дзвесце*, форма жаночага роду лічэбніка *дзве* не ўжываецца. Так, мы не гаворым *дзвюхсерыйны фільм*, а *двухсерыйны* (хоць: *фільм з дзвюх серый).*

Група зборных лічэбнікаў прадстаўлена ў беларускай мове дзесяццю словамі: *двое, трое, чацвёра, пяцёра, шасцёра, сямёра, васьмёра, дзевяцера, дзесяцера, абодва.* (Патэнцыяльна могуць існаваць і зборныя лічэбнікі, суадносныя з колькаснымі лічэбнікамі другога дзесятка і нават трэцяга: *дванаццацера, дваццацера* і г. д., аднак літаратурная норма гэтых слоў не прызнае). Названыя лічэбнікі абазначаюць не раздзельную множнасць прадметаў, якія пералічваюць, а іх сукупнасць. Калі мы скажам: *тры чалавекі выйшлі з хаты*, то паведамляем, што гэтыя людзі не абавязкова выйшлі разам, а маглі выходзіць і па адным. Калі ж мы скажам: *трое мужчын выйшлі з хаты*, то маем на ўвазе, што ўсе яны выйшлі разам, гуртам. Зборныя лічэбнікі ўжываюцца з назоўнікамі — назвамі асоб *(двое хлопцаў, пяцёра братоў)*, а таксама з субстантываванымі прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, што называюць асоб *(пяцёра невядомых, двое апытаных)*, са словамі *дзеці, людзі, асобы (двое дзяцей, сямёра людзей, трое асоб)*, з асабовымі займеннікамі *мы, вы, яны (папрасілі нас дваіх, нас было ў сям'і шасцёра)*, з назвамі маладых істот *(трое кацянят)*, з неадушаўлёнымі множналікавымі назоўнікамі, а таксама з назвамі парных прадметаў *(пяцёра сутак, двое калготак, трое саней, двое лыж* — г. зн. 'дзве пары лыж', *трое ботаў* — г. зн. 'тры пары ботаў'). У апошніх спалучэннях зборныя лічэбнікі ўжываюцца толькі ў назоўным і вінавальным склонах, а ва ўсіх астатніх ускосных склонах замяняюцца колькаснымі (пры гэтым да назваў парных прадметаў дадаецца слова *пара: пяцёра сутак*, але: *пяццю суткамі, пяці суткам; трое ботаў*, але *трох пар ботаў; двое лыж*, але: *дзвюма парамі лыж).* У нашай мове зборныя лічэбнікі ўжываюцца і з неасабовымі назоўнікамі — назвамі жывых істот, калі гэтыя назоўнікі ў форме

множнага ліку абазначаюць не раздзельную множнасць, а сукупнасць: *запрэжана трое коней, плыве пяцёра гусей.*

П а р а д к а в ы я лічэбнікі абазначаюць месца прадмета пры лічэнні: *у пятым класе, на сотай вярсце.* Сваім значэннем, а таксама характарам утварэння парадкавыя лічэбнікі цесна звязаны з колькаснымі: ад кожнага колькаснага ўтвараецца адпаведны яму парадкавы. Аднак паводле словазмянення (змена па склонах, родах і ліках), характару спалучальнасці з іншымі словамі, па сінтаксічнай функцыі ў сказе парадкавыя лічэбнікі нічым не адрозніваюцца ад прыметнікаў. Нездарма многія сучасныя даследчыкі гэты клас лічэбнікаў называюць парадкавымі прыметнікамі. Дарэчы, у парадкавых лічэбніках лёгка развіваюцца пераносныя значэнні: *першы гатунак, першы ў працы, на трэцім плане.* Такія значэнні, бяспрэчна, якасныя.

Усе лічэбнікі, за выключэннем няпэўна-колькасных *мала, нямала, шмат, няшмат*, а таксама пэўна-колькасных *паўтараста, паўтара* — для мужчынскага і ніякага роду і *паўтары* — для жаночага роду, скланяюцца. Склонавыя канчаткі лічэбнікаў супадаюць з канчаткамі назоўнікаў ці прыметнікаў; у адных выпадках — гэта канчаткі адзіночнага ліку, у другіх — множнага. Лічэбнік *дзевяноста* мае формы ўскосных склонаў, якія супадаюць з формай назоўнага. Лічэбнікі *сорак* і *сто* ва ўсіх склонах, акрамя назоўнага і вінавальнага, маюць канчатак *-а: сарака, ста.* Пры скланенні складаных і састаўных колькасных лічэбнікаў згодна з нормамі літаратурнай мовы змяняюцца ўсе часткі (акрамя лічэбнікаў *абодва, абедзве*, у якіх змяняецца толькі другая частка): *пяцьдзесят — пяцідзесяці — пяццюдзесяццю* і г. д., *шэсцьсот — шасцісот — шасцістам* і г. д.; *сто семдзесят восем — ста сямідзесяці васьмі* і г. д. Адхіленні ад гэтага правіла, хоць і сустракаюцца ў гутарковай мове (параўнайце, *прыйшоў разам з пяцьдзесят двума пасажырамі*), лічацца памылкамі. У састаўных парадкавых лічэбніках скланяецца толькі апошні структурны кампанент: *дзве тысячы чатырыста восемдзесят пятаму, дзве тысячы чатырыста восемдзесят пятым* і г. д.

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; В я р х о ў П. В. Лічэбнік у беларускай мове [параўнальна з рускай і ўкраінскай мовамі]. Мн., 1961; Ч а б я р у к А. І. Лічэбнік у беларускіх гаворках. Мн., 1977; Ш у б а П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## ЛОБАН МІКАЛАЙ ПАЎЛАВІЧ



Пісьменнік і мовазнавец Мікалай Паўлавіч Лобан нарадзіўся 27 кастрычніка 1911 г. ў в. Чаплічы Слуцкага раёна. Кандыдат філалагічных навук (1953). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа 1985 г. (за зборнік «Пяць раніц тыдня»). Пасля заканчэння ў 1931 г. Слуцкага педвучылішча настаўнічаў у вёсках Любанскага і Рудзенскага раёнаў, у 1942 г.— у пас. Келераўка Паўночна-Казахстанскай вобласці. У 1945 г. скончыў БДУ. У час вучобы ў БДУ працаваў у Камісіі па складанні руска-беларускага слоўніка. У 1944—67 і 1968—75 гг. працаваў у Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР, у 1967—68 гг.— у БелСЭ. Памёр 28 снежня 1984 г.

М. Лобан — аўтар раманаў, апавяданняў, мовазнаўчых даследаванняў, эсэ і крытычных артыкулаў аб праблемах пісьменніцкага майстэрства, псіхалогіі творчасці. Адзін з укладальнікаў «Арфаграфічнага слоўніка» (з М. Суднікам, 1948; 6 выд. 1990), «Руска-беларускага слоўніка» (1953), «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959), «Беларуска-рускага слоўніка» (1962). Ажыццяўляў практычнае кіраўніцтва прац над стварэннем «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» ў 5 тамах, рэдактар 1-га тома гэтага слоўніка (1977).

М. Лобан часта выступаў у друку па пытаннях мовы. У артыкулах «Новае ў беларускім правапісе» (1957), «Суфікс *ір* у беларускай мове» (1948) ён закранаў пытанні правапісу, у артыкуле «Націск у назоўніках з невытворнай асновай у сучаснай беларускай літаратурнай мове» (1957) — праблемы акцэнталогіі. Пра культуру мовы ён пісаў амаль у кожным сваім выступленні, артыкуле, даследаванні [«Пісьменнік і мова» (1950), «Некаторыя заўвагі аб мове» (1951), «Запрашэнне на мову» (1974)]. Ён пераконваў, што літара́тару «дадзена права аблюбаваць слова за агароджай літаратурнай мовы, ...каб гэта слова было неабходным, каб яно запоўніла сабою свабоднае месца ў «мендзялееўскай табліцы» нашай мовы» (Думкі ўголас // Лобан М. П. Пяць раніц тыдня. Мн., 1984. С. 215).

Пра каго б пісьменнік ні пісаў — ці пра класікаў роднай літаратуры Я. Коласа, Я. Купалу, К. Чорнага, ці пра сваіх сучаснікаў розных пакаленняў А. Кулакоўскага, В. Палтаран, Я. Сіпакова, ці пра пераклады, ці пра навуковы даведачны апарат — бібліяграфію, ці пра лексікаграфію, слоўнікі, стыль, ці проста роднае слова,— аўтар ён чуйны, пільны, зацікаўлены. Ён улюбёны ў просты трапны выраз, слова народа. Трапнае выкарыстанне жывой народнай мовы, экспрэсіўна-выяўленчых магчымасцей дыялектнага слова, стрыманы, лаканічна-дзелавы стыль — прыкметныя рысы мастацкай манеры самога пісьменніка. У адным з эсэ М. Лобан пісаў пра магутную сілу слова як самапазнання чалавека: «Роднае слова — ты найвялікшае з вялікіх тварэнняў, ты — сам народ, яго гісторыя, працоўная і духоўная біяграфія, ты сплеценне яго дум, імкненняў і спадзяванняў» (Словы, словы, словы...// Маладосць. 1980. № 6. С. 137).

М. Лобан як пісьменнік шчодра карыстаўся рознымі лексічнымі пластамі мовы: *Бачыш, колькі* ***палацён?*** *Яшчэ ад мацеры асталіся. Табе гадоў дзесяць можна* ***не прасці, не ткаць*** *— усяго есь:* і ***спаднічнага, і нагавічнага, і намітак, і андаракоў і пасцілак*** («На парозе будучыні»); *І ад усяго гэтага пацягнула хутчэй да дзяцей, захацелася засесці за праграму,* ***распланаваць, размеркаваць матэрыял па гадзінах, завесці новыя сшыткі для канспектаў*** («Гарадок Устронь»).

Выразныя мастацкія сродкі ажыўляюць і ўзбагачаюць літаратурную тканіну твораў пісьменніка. Ён даволі часта выкарыстоўваў шырока вядомыя ў народзе параўнанні: *адзін, як пень, на гэтай гаспадарцы; у лесе было ціха, як у вуху; у чыстай, як сляза, вадзе чародамі хадзіла рыба; сена духмянае, што чай; галодны, як у піліпаўку воўк; канюшына пасохла, як перац; маладыя і магутныя, як стогадовы дуб; прыгожая, як лялька; ногі крывыя, што клешчы ў хамуце.* Часам аўтарскія параўнанні падкрэсліваюць адносіны пісьменніка да літаратурнага героя: Парфен Марцінавіч (персанаж рамана «Гарадок Устронь») быў *з голай, як камяк цеста, ледзь прыгладжаны мокрай рукою і пасаджаны не на лапату, а на гэтыя плечы, галавой;* Мароз *вымаўляў словы, як цаглiну адну да другой*

*прыкладвай, спакойна, аўтарытэтна* (тамсама).

М. Лобан тонка адчуваў сінанімічнае багацце беларускай мовы і выкарыстоўваў сінанімічныя рады накшталт *прыпусціцца, джгаць, пашлёпаць, паплесціся; гамонка, шум, тлум. вэрхал, гул; раптам, нечакана, знянацку, знячэўку* і інш. Аналагічна передае ён адметнасць позіркаў персанажаў (самаўпэўненых, калючагарэзлівых, нясмелых); *Мароз* ***прастрэліў вачамі*** *Шэмета; Яна* ***секанула*** *яго* ***сваімі вачанятамі****; Дзяўчына* ***шчыганула вачамі*** *па Андрэю.*

Да беларускай фразеалогіі — моўнай крыніцы народнай мудрасці і дасціпнасці — М. Лобан звяртаўся, каб праўдзіва перадаць розныя з'явы рэчаіснасці: *пра гэтую сям'ю яшчэ* ***віламі пісана****; гэтага кулака цяпер і* ***днём з агнём не знойдзеце****; будуць валачыцца* ***ў свіныя галасы****, каб усе бачылі.* Найбольш частыя фразеалагізмы ў простай мове: *Гэта ж Гаварушка не ведае, што вы тут,* ***з-за свету*** *прыбег бы; Быў у мяне дзядзька некалі — свае людзі помняць — гультай гультаём.* ***Ні кала ні двара****; А вы спадзяваліся,* ***што я шоўкавая****, што мяне* ***хоць да раны прылажы?***

Выкарыстоўвае пісьменнік устойлівыя адзінкі мовы таксама пры апісанні жыццёвых сітуацый: *У сяло Шэмет не заязджаў, ссадзіў Конана ў канцы сяла, каб* ***языкамі не пачалі часаць****; Трактарысты аказаліся хлопцамі сапраўднымі: Алёшу* ***нос уцёрлі.***

Любоўю і павагай да зямлі і чалавека-працаўніка напоўнены шматлікія старонкі твораў М. Лобана, багатых на вобразныя мастацкія выслоўі: *Усе, хто па зямлі ходзіць, павінны быць аграномамі; Нясмачны той хлеб, што сам расце; Збажына любіць, каб яе потам палівалі; З душою паложанае ў зямлю зерне ў тры каласы расце.*

Як мастак слова М. Лобан адметны ў беларускай літаратуры тым, што мог глыбока адчуваць жыццё ў разнастайных сацыяльна-бытавых праявах, умеў перадаваць складаныя і супярэчлівыя тэндэнцыі часу, трапна выкарыстоўваючы пры гэтым лексічныя пласты беларускай мовы, мясцовыя словы яго роднай сакавітай слуцкай гаворкі. Надзвычай багатая спадчына М. Лобана ў такой галіне мовазнаўчай навукі, як філасофія мовы. Менавіта светапоглядны характар маюць узнятыя пісьменнікам пытанні ўзаемасувязі мовы і нацыі, мовы і пісьменніка, мовы і прагрэсу грамадства, мовы і гісторыі.

*Літ.:* Б а х а н ь к о ў А. Пісьменнік-вучоны // Беларусь. 1961. № 10; Б а д з ю к о ў М. Каб героі размаўлялі сваёй мовай // ЛіМ. 1963. 25 кастр.; Д з ю б а й л а П. Час і людзі // На высокай хвалі: Літ.-крытыч. арт. Мн., 1968; Ж ы л у н о в і ч Г. Д. Мікалай Паўлавіч Лобан:/Да 60-годдзя з дня нараджэння). // Бел. лінгвістыка. Мн., 1972. Вып. 1.

*М. І. Пашкевіч.*

## ЛОГІКА І МОВА

Мовазнаўства мае разнастайныя сувязі з іншымі навукамі — семіялогіяй, псіхалогіяй, эстэтыкай, педагогікай, літаратуразнаўствам, а таксама з кібернетыкай, матэматыкай, акустыкай, фізіялогіяй і інш. І гэта не выпадкова, бо мова — непасрэдны аб'ект мовазнаўства — з'ява выключна складаная, спалучаная з усімі праявамі чалавечага жыцця. Адна з такіх праяў — мысленне чалавека. Мысленне выяўляецца ў маўленні, дзе мова выступае найперш як матэрыяльная (гукавая або зрокавая) «абалонка» выказанай думкі і адначасова як яе семантычнае ўвасабленне. Мысленне вывучае логіка — навука пра формы думкі і законы або сувязі думак у разважаннях. Таму зусім натуральна ставіць пытанне пра тое, як звязана мовазнаўства з логікай, мова з мысленнем, адзінкі мовы з катэгорыямі (адзінкамі) логікі.

Найбольшую цікавасць у гэтым плане маюць суадносіны паміж паняццем, суджэннем, лагічным вывадам як катэгорыямі логікі і спосабамі іх моўна-маўленчага выяўлення — марфемай, словам, свабодным словазлучэннем, фразеалагізмам, простым і складаным сказам, тэкстам, г. зн. тымі моўнымі адзінкамі, якія маюць не толькі гукавую форму, або план выражэння, але і план зместу — семантыку, сэнс, значэнне, значымасць, эмацыянальнае і паняційнае напаўненне.

Самы просты і найбольш «празрысты» для аналізу суадносін паміж моўнымі і лагічнымі адзінкамі выпадак — гэта суадпаведнасць асобнага слова і паняцця: *рысь* 'лясны драпежнік з пароды кашэчых'; простага сказа і суджэння: *На стале ляжыць кніга* 'тое, што ляжыць на стале, ёсць кніга'; складанага сказа і сілагізма: *Паколькі ўсе планеты рухаюцца вакол сонца, то рухаецца і Венера, бо яна таксама планета[1] сонечнай сістэмы.* Гэтаму складанаму сказу адпавядае наступная прынятая ў навуцы аб мысленні форма запісу лагічнага вываду (сілагізма):

Усе планеты рухаюцца вакол Сонца.
Венера планета.

---

Венера рухаецца вакол Сонца.

Аднак і гэтыя прыклады не такія простыя, як здаецца на першы погляд. Змест слова *рысь* не зводзіцца да аднаго асобнага паняцця. Яго моўнае значэнне ўключае яшчэ шэраг граматычных паняццяў (адзіночны лік, назоўны склон, жаночы род і інш.). У маўленні ж яно рэалізуе здольнасць набываць іншыя значэнні. Так, у выразе *красціся, як рысь* рэалізуецца паняцце 'асцярожна' (або 'нячутна' і пад.); *кінуцца рыссю* 'драпежна', 'знянацку', а ў спалучэнні *ехаць рыссю* ужо маем справу з устойлівым пераносам значэння, г. зн. з аманіміяй рысь[1] і рысь[2]. Такім чынам слова *рысь* здольнае перадаваць пэўны ланцужок розных паняццяў. У той жа час кожнае з гэтых паняццяў можа перадавацца і іншымі моўнымі сродкамі. Такія суадносіны паміж словамі і паняццямі (лексічнымі значэннямі) — адметная рыса будовы моўнай сістэмы, якая атрымала ў мовазнаўстве назву «асіметрычнага дуалізму лінгвістычнага знака» (тэрмін С. В. Карцэўскага). У лексічнай сістэме мовы ёсць, праўда, такія яе падсістэмы, дзе суадносіны «адно слова — адно паняцце» з'яўляецца пераважнымі і вельмі пажаданымі. Гэта — тэрміналогія.

Не менш складаныя і сувязі паміж сказам і суджэннем. Найперш падкрэслім, што кожнае суджэнне абавязкова перадаецца сказам, але не кожны сказ выражае суджэнне. Не перадаюць суджэнняў (адметнай рысай якіх з'яўляецца абавязковае сцвярджэнне або адмаўленне чаго-небудзь пра штонебудзь) сказы пабуджальныя *(Прынясі вады!)*, пытальныя *(Як вас завуць?)*, выклічнікавыя *(Эх! Гм-гм)*. Адно і тое суджэнне можа перадавацца некалькімі сказамі — сінтаксічнымі сінонімамі, напрыклад: *Сёння мароз.— Сёння марозна.— Сёння марозіць*, а таксама сінонімамі лексіка-сінтаксічнымі і сітуацыйнымі: *Пеця гэты раман ужо прачытаў.— Сын гэты твор ужо скончыў чытаць.— Ён гэтую кнігу ўжо адолеў* і падобныя.

Некалькі звязаных суджэнняў могуць перадавацца не толькі складаным сказам *(Мы сустрэліся, калі навальніца скончылася)*, але і простым *(Мы сустрэліся пасля навальніцы)*. Аднолькава пабудаваныя сказы часта маюць розную лагічную значнасць. Параўнаем, напрыклад, два сказы: *Панядзелак — першы дзень тыдня* і *Квадрат — простая геаметрычная фігура.* Першы сказ передае лагічна завершаную характарыстыку паняцця 'панядзелак', таму ісціннасць суджэння захоўваецца, калі памяняць месцамі левую і правую часткі (дзейнік і выказнік — у мовазнаўстве, суб'ект і прэдыкат — у логіцы): *Першы дзень тыдня — панядзелак, і толькі панядзелак.* У другім выпадку перастаноўка не вядзе да ісціннага суджэння: *Простая геаметрычная фігура — гэта не толькі квадрат, але і трохвугольнік, і круг, і інш.* Ужо з гэтага вынікае, што любы тэкст патрабуе правільнай лагічнай інтэрпрэтацыі. Пры гэтым ён яшчэ нясе інфармацыю эмацыянальна-экспрэсіўную, вобразную, граматыка-стылістычную, якой логіка не цікавіцца і не займаецца. Знешне падобныя сказы могуць перадаваць зусім розныя суджэнні і тады, калі яны адрозніваюцца інтанацыйна (гл. **Націск**), напрыклад: ***Бацька*** *прыехаў уначы* (суджэнне 'бацька ёсць той, хто прыехаў уначы') — *Бацька прыехаў* ***уначы*** (суджэнне 'ноч ёсць той час, калі прыехаў бацька').

Гэтыя і іншыя прыклады пацвярджаюць як даўні вывад пра сувязь

логікі і мовы, так іназіранні, якія яшчэ не набылі канчатковай сістэмнасці: адзінкі логікі і адзінкі мовы не знаходзяцца ў адносінах адна-адназначнай адпаведнасці. Незвычайная разнастайнасць моўна-маўленчага афармлення думкі — адна з адвечных праблем навукі пра чалавека. «Звычайная натуральная мова,— вобразна, але і слушна пісаў сучасны логік і матэматык Э. Берклі,— ёсць жыльная парода, руда, расплаўленая магма... Чым больш людзі будуць разумець натуральныя мовы, якімі яны карыстаюцца, тым больш яны будуць уяўляць сабе, як гэтыя мовы раскрываюць і хаваюць ідэі, адлюстроўваюць і скажаюць паняцці, тым хутчэй яны навучацца здабываць з моў крышталі і самародкі яснасці» (Символическая логика и разумные машины. М., 1961. С. 46—47).

У гэтым разважанні няма перабольшання — неапраўданага «абвінавачвання» мовы ў нелагічнасці. Любая натуральная мова мае не толькі дадатныя якасці. Яна мае і недахопы, праўда, не абсалютныя, а толькі з пазіцый пэўных патрабаванняў да яе, якія ўзнікаюць пры вырашэнні розных практычных задач, напрыклад, логікаматэматычнага забеспячэння ЭВМ, пабудовы інфармацыйных сістэм, канструявання «штучнага інтэлекту» і г. д. Прыклад такіх «недахопаў» — груваcткасць слоўных фармулёвак у адрозненне ад формульных, лагічна адназначных, лаканічных запісаў у матэматыцы; залежнасць сінтаксісу ад семантыкі (напрыклад, *бачу каня*, але *ўспомній дзень*, а не *дня* — улічваецца катэгорыя адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці); неадназначнасць многіх сінтаксічных канструкцый (*яму трэба перадаць рукапіс* — хто каму? *брат Андрэя з фабрыкі прыйшоў* — хто з фабрыкі?) і інш.

Калі дастаткова была вывучана сутнасць натуральных моў, асэнсаваны іх «недахопы» і дакладна сфармуляваны некаторыя сучасныя навукова-практычныя задачы, узнікла неабходнасць стварыць спецыяльныя штучныя мовы, якія б у лагічных адносінах былі больш дасканалыя. Праблематыка суадносін логікі і мовы стала яшчэ больш разнастайнай.

Але не перасталі цікавіць даследчыкаў і праблемы традыцыйныя, як, напрыклад, праблема суадносін мыслення і мовы, ступені іх узаемаабумоўленасці. З'явіліся і новыя кірункі даследавання гэтага адвечнага пытання, што знайшло сваё адлюстраванне ў такіх паняццях і тэрмінах, як практычнае мысленне, авербальнае (пазаслоўнае, пазамоўнае) мысленне, авербальна-паняційнае мысленне, рэдукаванае мысленне, вобразнае мысленне і інш.

Адна з самых блізкіх да паўсядзённай практыкі выкарыстання мовы праблема — гэта праблема лагічнасці маўлення. Лагічнасць маўлення — важны крытэрый культуры мовы. Так, нелагічным прызнаецца выраз *большая (меншая) палавіна* або сказ *Ён з трыццатага года нараджэння* (замест *большая частка* і *Ён трыццатага года нараджэння*). Прычына нелагічнасці ў першым выпадку відавочная. У другім жа — прыназоўнік *з* у часавым значэнні дапускае і нават патрабуе лагічнага працягу ў прыназоўніку *да: Ён жыў там з трыццатага да трыццаць пятага года* (*з... да* — прамежак часу). У прыведзеным прыкладзе ўказання на прамежак часу няма, а таму і прыназоўнік *з* лагічна не апраўданы.

Часам «логіка мовы» як бы перадольвае логіку мыслення. Нас не бянтэжаць ужо такія выразы, як *каляровая бялізна* або *літаратура і мастацтва*. У першым слова *бялізна* страціла непасрэдную сувязь са словам *белы* і таму «белае» можа быць і «каляровым», а ў другім — традыцыя замацавала вылучэнне літаратуры з іншых відаў мастацтва (магчыма з-за яе асобай ролі ў духоўным жыцці людзей), а разам з тым замацаваўся і сам нелагічны, калі разважаць строга, выраз *літаратура і мастацтва*.

Варта ўказаць і яшчэ на адзін важны аспект суадносін логікі і мовы. Логіка мае агульначалавечы характар, яна наднацыянальная, мова ж — з'ява нацыянальная. Таму лагічныя катэгорыі, выяўляючыся ў нацыянальных моўных формах, набываюць непаўторную, нацыянальна-своеасаблівую афарбоўку: тое, што, напрыклад, у адной мове перадаецца словаспалучэннем, у іншай можа быць выражана адным словам і наадварот. Так, некаторыя паняцці, што аднаслоўна выражаюцца ў беларускай мове, у рускай афармляюцца двума ці болей словамі: *гарбарня — кожевенный завод, крушня — куча камней, прадвесне — время перед весной* і г. д. На падставе такіх і падобных параўнанняў, праведзеных паслядоўна і на ўсіх узроўнях моўнай сістэмы, можа быць здзейснена функцыянальна-семантычная тыпалогія моў.

Сувязь мовы з логікай — гэта адзін з аспектаў больш шырокай праблемы суадносін мовы і маўлення з мысленнем. Шматвяковы працэс выражэння думак сродкамі мовы прывёў да таго, што ў лексіцы і граматычным ладзе развіліся шматлікія фармальныя катэгорыі з вельмі разнастайным зместам і лагічным статусам. Некаторыя з іх часткова суадносяцца з агульнымі катэгорыямі мыслення (так званымі паняційнымі катэгорыямі), напрыклад: дзейнік, выказнік, дапаўненне, азначэнне — суб'ект, прэдыкат, аб'ект, атрыбут; назоўнік, дзеяслоў, прыметнік, лічэбнік — прадмет (з'ява), працэс (стан), якасць, колькасць; злучнік, прыназоўнік, граматычны час — сувязь, адносіны, час і г. д. Але ў мове ёсць шмат катэгорый, якія з'яўляюцца вынікам працяглага працэсу стыхійнага абагульнення саміх моўных форм і якія не маюць суадпаведнікаў сярод катэгорый мыслення. Гэта, напрыклад, катэгорыі граматычнага роду, азначальнасці / неазначальнасці, трывання, суб'ектыўнай мадальнасці і шмат іншых. Так, катэгорыя асобы характарызуе мову не з боку мыслення, а ў плане ўмоў зносін, г. зн. камунікатыўнай, а не кагнітыўнай функцыі мовы. Семантыка многіх такіх катэгорый не ўсведамляецца гаворачым і ў прадметны змест думкі не ўключаецца. Гэта яскрава пацвярджаецца перакладам з мовы на мову: перадаецца канкрэтны змест паведамлення, а не семантыка ўласнамоўных катэгорый. Усведамленне чалавекам зместу выказвання і адначасова пазасвядомае аўтаматычнае выкарыстанне ім фармальна-семантычных катэгорый мовы як элементаў яе ўласнай структуры І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ назваў «моўным мысленнем». Гэта складаная з'ява здаўна прыцягвала ўвагу вучоных і спарадзіла мноства гіпотэз і тэорый, у тым ліку так званы лагічны кірунак у мовазнаўстве. Гэты кірунак складаецца з сукупнасці плыняў і канцэпцый, звязаных з вывучэннем мовы ў яе адносінах да мыслення, да ведаў і арыентаваных на пэўныя школы ў логіцы і філасофіі.

Суадносіны логікі і мовы і сёння застаюцца важнай праблемай навуковага вывучэння чалавека, яго мыслення і яго камунікацыйных здольнасцей.

*Літ.:* Роль человеческого фактора в языке. Язык и картина мира. М., 1988; Философия, логика, язык. М., 1987; Кукушкина Е. И. Познание, язык, культура: Некоторые гносеологич. и социологич. аспекты проблемы. М., 1984; Логические проблемы исследования научного познания: Семантич. анализ языка. М., 1980; Плотников Б. А. О форме и содержании в языке. Мн., 1989; Мышление и язык. М., 1957; Карцевский С. Об асимметричном дуализме лингвистического знака // Звегинцев В. А. История языкознания XIX—XX веков в очерках и извлечениях. Ч. 2. 3 изд. М., 1965; Якушин Б. В. Слово. Понятие. Информация. М., 1975.

*А. Я. Міхневіч.*

## ЛУЖАНІН МАКСІМ

Максім Лужанін (сапраўднае імя Каратай Аляксандр Амвросьевіч), беларускі паэт, празаік, публіцыст і перакладчык, нарадзіўся 2 лістапада 1909 г. ў в. Прусы Салігорскага раёна. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа 1965 г. (за кнігу «Колас расказвае пра сябе», 1964), заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1969). Скончыў Мінскі педтэхнікум (1928), вучыўся ў БДУ (1928—31). Працаваў у рэдакцыях беларускіх газет і часопісаў, на выдавецкай рабоце ў Маскве, на кінастудыі «Беларусьфільм». Дру-



куецца з 1925 г., выдаў больш за 40 кніжак паэзіі, прозы, публіцыстыкі. На беларускую мову пераклаў «Гора ад розуму» А. Грыбаедава, «Вечары на хутары ля Дзіканькі» М. Гогаля, «Падарожжа з Пецярбурга ў Маскву» А. Радзішчава, «Жыццё Кліма Самгіна» М. Горкага, «Маладую гвардыю» А. Фадзеева, «Яны змагаліся за радзіму» М. Шолахава, асобныя творы А. Пушкіна, У. Маякоўскага, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі і інш.

Ужо ў першых паэтычных зборніках Лужанін як мастак слова здолеў дакладна перадаць самыя разнастайныя з'явы, колеры, пералівы фарбаў і светаценяў. Звернем увагу на метафары: ***Церусіла** поўнач людзям сны; Люблю **рассыпаць** смех вачэй; А ўжо сонца каліну **крывавіць** // Пад **рудымі барадамі** стрэх; Плошча **палошча** сцягі, // Радыё радасць **ірдзіць**; Вецер **тузае** ў небе **вяроўкі дажджоў.*** Падобных тропаў у ранняй паэзіі Лужаніна шмат, амаль усе яны нясуць непаўторную мастацкую інфармацыю. Як відаць, ужо на пачатку творчай дарогі паэт найперш абапіраўся на асацыятыўнае поле слова, імкнучыся як мага шырэй адлюстраваць яго выяўленчыя магчымасці.

Талент паэта паступова сталеў, мужнеў і выспеў з цягам часу да такой ступені, што «паэтычнае слова сталася яму гэткім жа неабходным, як само жыццё» (А. Вялюгін). Моўным адзінкам Лужанін заўсёды імкнецца надаваць свежае прадметна-вобразнае значэнне, здольнае парушаць, абнаўляць і перайначваць уяўленні чытача. У яго паэзіі (ды і ў прозе таксама) многа рэдкіх слоў, аказіянальных адзінак, якія яшчэ не паспелі прыжыцца ў слоўніках, не страцілі адцення навізны і непаўторнасці ў літаратуры: *Абазвалася ранне — ўставаў **санцавей**; Расце, ступае ў свеце **волатна**... мой век адзіны; А было ж мне тады пайдарогі да восені! // **Лесавау** у барах на світанні і ў змрок; І на вуснах юнацтва **няўброджаны** сок; З **надвечара**, з **надростані** дарог // Дазволь мне працягнуць твой маналог; Як хараша вясной дыхнуў Нясвіж,// Адкуль вазіў ты сок бяроз **прывежных.***

Лужанін умее семантычна «ўзбуйніць», зрабіць вельмі трапнымі і свежымі агульнаўжывальныя словы і выразы. Пры гэтым творчыя магчымасці лексічных адзінак ён рэалізуе праз мнагазначнасць (*Мы сядзім удвух з маёрам, снег **ідзе**, і час **ідзе***), аманімію (*Былі **каралі — карáлі,** // Былі ў каралеўны **карáлі,** // Зладзеі **карáлі** ўкралі, // За борам // За морам схавалі*), паранамазію (*Як не сама літаратура, дык час ёй зробіць добры лад, і для **халтуры** на **хаўтуры** не паскупіцца на разрад*) і іншыя стылістычныя сродкі мовы. Мастацкую выразнасць паэзіі Лужаніна надаюць творча перапрацаваныя фразеалагізмы: *Трусок з калмаценькім сабачкам лятаў **за трыдзевяць нябёс**; Айцоў айчыны шмат было — цары з барoдамі, з вусамі, **з галовамі і без галоў.***

У лепшых творах паэта — багацце інтанацый, разнастайнасць строфікі і рыфмоўкі, гукавая выразнасць: *Калі паглыне мяне шлях няблізкі // У край курганаў і абеліскаў // Адбіць навалу над родным домам // Вярнуся громам; Сонцам // Апечаны // Далягляд. // З донцам // У вечар // Уверчаны // Сад; ...А верас бег да небакраю, // У сінім паху прыбываў. // Хмялела ўжо немаладая, // Як маладая, галава; У прадзіва пісьмён пакладзена // Усё — чужацкае і свойскае, // І немы крык нямога прадзеда // Ляціць з адозваў Каліноўскага.* У сэнсе кожнага слова Лужанін імкнецца з'яднаць традыцыйнае і наватарскае, эмацыянальнае і рацыянальнае. Хіба не здзіўляе, напрыклад, гармонія гукаў, выразнасць, сакавітасць мовы ў наступных радках: *Ляцяць лісты... Пакінуць свет // Не менш патрэбна сілы, // Чым тая, што пагнала ў цвет, // З насення ў рост пусціла. // Як у вясновую ваду, // Я ў жоўтай завірусе... // Руку на лісце пакладу, // Да сонца дакрануся.*

Як мастак слова Лужанін — асоба адметная. Ён чуйна рэагуе на патрэбы грамадства ва ўзорным слове, нястомна і настойліва працуючы над кожным творам, над кожным радком. З такім адчуваннем стварыў пісьменнік адну са сваіх лепшых кніг — «Колас расказвае пра сябе» (Мн., 1964). «Яе адной было б досыць,— адзначыў літаратурны крытык Г. Кісялёў,— каб забяспечыць за аўтарам ганаровае месца ў роднай літаратуры, не гаворачы ўжо пра велізарны ўклад у коласазнаўства» (Полымя. 1984. № 11. С. 206). Сапраўды, у сэнсе культуры слова значэнне гэтай кнігі цяжка пераацаніць. Учытаемся ў першы абзац твора: *Багата гадоў назад пачала мне карцець адна турбота: напісаць аб ім аповесць. Не аб дбайным збіральніку мастацкай праўды ў трывалыя радкі кніг доўгага веку; не аб мудрым чалавеку з дзяржаўным позіркам, клопатам і сталасцю, абвеяным цеплынёй народнае пашаны; нават не аб добрым старэйшым таварышу, якім быў ён для многіх з нас, пісьменнікаў, хто меў права гаварыць яму «ты» або ўжываць даўнейшы вясковы зваротак «дзядзька Якуб», а то і проста казаць «дзядзька», як сваяку.* Побач з актыўнымі сучаснымі лексічнымі адзінкамі хараша прыжыліся тут глыбінныя, спрадвечна народныя словы і іх спалучэнні. Лексічнае багацце для пісьменніка не самамэта: не толькі ў гэтым абзацы, а і ва ўсёй кнізе ўсё прадыктавана мастацкай неабходнасцю, трапяткой любоўю і вялікай павагай аўтара да класіка беларускай літаратуры. Унікальны празаічны твор здзіўляе, з аднаго боку, багаццем і дакладнасцю фактаў, з другога — паэтычнасцю пісьма. Рацыянальнае і эмацыянальнае тут хараша лучацца ў адзінай моўнай плыні. Іншы раз празаічны тэкст расквечаны аказіянальнай метафарай або перыфразай, заснаванымі, напрыклад, на дасціпным выкарыстанні слоў-амонімаў *Колас* і *колас: Сын палясоўшчыка Міцкевіча, не пакапіўшыся на гучнасць і вядомасць гэтага прозвішча, прыняў сціплейшае і непрыкметнейшае — Колас. І стаў ім, і не стаптаў яго ў руні жорсткі капыт часу, не падцяла нявыкалашаную сцяблiну каса забыцця, не пабіў град знявагі, не зламаў віхор падзей.* Часам праз канатацыю агульнамоўных адзінак тэкст становіцца шчымліва балючым, згушчана драматычным: *Яго **сэрцу нецярплівілася** дамоў. **Мучыў боль** па загінуўшым сыне, **мігцела надзея** хоць што-небудзь пачуць аб ім, а тут **насоўвалася іншае няшчасце** — на вачах **пачынала згасаць** сяброўка жыцця.* Выразнага мастацкага эфекту дасягае аўтар праз майстэрскае выкарыстанне бытавой лексікі, удала знойдзеную дэталь: *Асабліва смачна пілося малако з **белага кубка, адзінай крамнай пасудзіны ў нашай хаце**; — Дзе ўжо мне! — адмахнулася бабка. Аднак **чарку прыняла і выпіла яе па-мужчынску,** адразу. Нават прысела на хвіліну, **пакачала па бяззубых дзяснах кавалачак мякішу, адшчыкнуты ад лусты даўгімі, паўсыхаўшымі ад веку пальцамі.*** Не пазбягае пісьменнік слоў, якія стаяць на перыферыі літаратурнага маўлення — прастамоўяў,— надаючы апавяданню адценне дасціпнага гумару: *Аднойчы дзядзька раздобрыйся, а можа гарэлкі **нюхнуў**, і падараваў мне сваю скрынку. Я быў на сёмым небе і пачаў **валачыцца** за ім след у след, **як абнаджаны шчанюк.***

Адметнасцю моўна-выяўленчых сродкаў вылучаюцца кнігі публіцыстыкі і крытыкі Лужаніна. Паводле характару выкладання яны вельмі набліжаюцца да лірычнай прозы, што дае магчымасць пісьменніку карыс-

тацца шырокім дыяпазонам моўнага рэгістра, смела мабілізаваць усе сінанімічныя рэсурсы роднай мовы, як лексічныя, так і граматычныя. Вельмі багаты тут і стылістычны ўзровень мовы: кніжныя сродкі свабодна і арганічна спалучаюцца з размоўнымі, нават стылістычна зніжанымі. Напрыклад, у «Рэпартажы з рубцом на сэрцы» (1973) аўтар дасягнуў асаблівай экспрэсіўнасці, адметнага стылёвага каларыту, смела спалучыўшы размоўна-дыялектную плынь мовы з грамадска-палітычнай, кніжнай лексікай: *Амерыку зноў калоціць перадвыбарная* ***ўструшня****, як і чатыры гады назад перад такой самай падзеяй; Уласныя дамкі і кватэры з усімі іх самымі сучаснымі* ***бэбахамі*** *— павабная мара перад вачыма і тапор над каркам выплатніка; Часу і адпаведна магчымасцей назіраць было* ***вобмаль****, таму кожны кавалак рэчаіснасці ўваходзіў у істоту і адбіваўся на ўсю вастрыню зроку і пачуцця; На Асамблеі пачалася* ***валавода*** *з запрашэннем Карэі, Народнай і Паўднёвай, па абмеркаванню карэйскай праблемы.*

Элементы лірычнага стылю ў публіцыстыцы дазваляюць Лужаніну не абмяжоўвацца строгімі рамкамі сюжэтнай задумы, пэўнай кампазіцыйнай схемы. Аўтар часта робіць адступленні, у якіх дзеліцца з чытачом асаблівасцямі пісьменніцкай работы, гаворыць пра пошукі слова, пра мову наогул. Так, у памянёным «Рэпартажы з рубцом на сэрцы» ён піша: «Занатоўваю таксама ўсё, што неадлучна ад маіх перакананняў, а значыць, стараюся пасвяціць сваім ліхтарыкам на з'явы, падзеі, факты. Сказаў — перакананні і з крыўдай адчуў: не дужа пашырана гэта слова сярод некаторых маладых маіх сяброў. Непрыкметна выслізгвае з вершаванага радка, з апавядання, нават з нарыса, а следам — знікае і ўнутраная пераконанасць, усхваляванасць, якая падымае чалавека на работу слова. Як ні дзіўна, на гэта жаліўся Дастаеўскі» (С. 144—145).

Пытанням культуры творчасці, развіцця мовы Лужанін прысвяціў таксама асобныя артыкулы: «Мова ў газеце», «Пісьменнік і мова» (кніга «Вачыма часу», 1964); «Магчымасці мовы», «Роздумы перад маладымі», «Гора перакладчыка», «Беларускія словы ў Герцэна», «Паэзія года», «Паэзія думкі і думка паэзіі» (кніга «З ранку да вечара», 1978). У гэтых працах аўтар перш за ўсё падкрэслівае неабходнасць засваення і творчага выкарыстання кожным пісьменнікам, кожным свядомым чалавекам скарбаў нацыянальнай мовы: «Пісьменнік павінен уладаць мовай так арганічна, мець настолькі вялікі і шырокі слоўны запас, каб усе яго думкі, ідэі і вобразы былі данесены да чытача выразна, ярка і дакладна» (Пісьменнік і мова // Лужанін М. Вачыма часу. Мн., 1964. С. 243); «Калі мы хочам, каб нашу мову любілі і паважалі, дык давайце гаварыць і пісаць на ёй так, каб усім было хораша і зайздросна, каб кожнае слоўка зіхцела і пералівалася. Даўно сказана, што слова не ёсць наша адвольная выдумка; кожнае слова, якое атрымлівае месца ў лексіконе, ёсць падзея ў галіне думкі» (Паэзія года // Лужанін М. З ранку да вечара. Мн., 1978. С. 245). Лужанін падае мноства прыкладаў удалага выкарыстання К. Чорным, Я. Коласам, Я. Купалам, К. Крапівой, У. Дубоўкам, Л. Калюгай і іншымі пісьменнікамі лексічных скарбаў беларускай мовы, дае парады наконт ужывання разнастайных моўных сродкаў. Слушныя думкі выказвае пісьменнік адносна развіцця і ўзбагачэння лексічнай сістэмы беларускай мовы за кошт дыялектызмаў і запазычанняў, наватвораў і забытых слоў.

Асабліва непакоіць Лужаніна мова беларускіх газет і, у прыватнасці, тыя недакладнасці і памылкі, якія ў іх сустракаюцца. Галоўнай прычынай памылак, лічыць аўтар, з'яўляецца тое, што «мы абавязкова хочам слова ў слова перакласці сказ з рускай мовы» («Мова ў газеце»). Пісьменнік пацвярджае сваю думку прыкладамі і прапануе варыянт правільнага словаўжывання і пабудовы сказа.

Творчасць Максіма Лужаніна спрыяе ўзбагачэнню і ўдасканаленню беларускай літаратурнай мовы, павышэнню культуры роднага слова.

*Літ.:* Пісьменнік і мова: Хрэстаматыя. Мн., 1962; Бечык В. Прасторы творчасці: (Максім Лужанін) // Бечык В. Прад высокаю красою: Літ.-крытыч. арт. Мн., 1984; Кісялёў Г. Крокі // Полымя. 1984. № 11; Паўлаў У. Неразлучны з вятрамі // Тамсама. 1989. № 11; Каўрус А. Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989; Цікоцкі М. Сугучнасць слоў жывых... Мн., 1981. *У. Б. Ламека.*

## ЛУЖЫЦКІЯ МОВЫ

Лужыцкія (сербалужыцкія) мовы прадстаўлены двума пісьмовымі ўтварэннямі — верхнялужыцкім (в.-л.) і ніжнялужыцкім (н.-л.). Іх носьбіты, г. зн. лужыцкія сербы (*Serbja*), жывуць на ўсходзе Германіі ў басейне ракі Шпрэе. Ніжнялужыцкая пісьмовая мова (і дыялекты) выкарыстоўваецца на поўначы Лужыцы (галоўны горад — Котбус, па-н.-л.— *Chošebuz*), верхнялужыцкая — на поўдні (галоўны горад Бауцэн, па-в.-л.— *Budyšin*; ён з'яўляецца культурным цэнтрам усіх лужычан). Агульная колькасць носьбітаў гэтых моў 60 тыс. чалавек.

Пісьменства на лужыцкіх дыялектах узнікла ў 16 ст. Найбольш старажытным помнікам в.-л. мовы з'яўляецца прысяга гараджан Бауцэна, перакладзеная з нямецкай мовы ў 1532 г. У ніжніх лужычан першым пісьмовым тэкстам лічыцца трэбнік 1543 г. Друкаваныя кнігі ў лужыцкіх сербаў з'явіліся ў 1573—1574 гг. Гэта Псалтыр і Катэхізіс А. Молера. Доўгі час лужычане карысталіся гатычным шрыфтам, які на працягу 19 ст. паступова выцесніўся лацінскім з дыякрытычнымі знакамі. У 17 ст. ствараюцца граматыкі н.-л. (1640) і в.-л. (1673) моў. Тады ж пачынаюць складвацца і літаратурныя мовы.

Пісьменства лужычан плённа развіваецца толькі з 19 ст. (галоўным чынам, верхнялужыцкае). Садзейнічалі гэтаму творы класікаў літаратуры (в.-л. Г. Зэйлера, Я. Барта-Цішынскага, Я. Радысерба-Велі; н.-л. М. Косыка), а таксама працы вучоных (Я.-А. Смолера, М. Горніка, К.-Б. Пфуля і інш.). У першай трэці 20 ст. вядомасць сербалужыцкай літаратуры прынеслі в.-л. пісьменнікі Я. Лоранц-Залескі, Ю. Хежка, Я. Скала, а таксама н.-л. М. Домашкойц, Л. Домашкойц, Ф. Роха. Пасля другой сусветнай вайны ў літаратуру прыйшлі такія вядомыя сёння пісьменнікі, як Ю. Брэзан, М. Кубашац, К. Лоранц, Ю. Кох (в.-л.) і М. Віткойц (н.-л.). У гэты час канчаткова стабілізаваліся нормы в.-л. і н.-л. моў, якія былі ўдасканалены дзякуючы глыбокаму вывучэнню дыялектаў.

У ГДР былі створаны спрыяльныя ўмовы для развіцця і выкарыстання сербалужыцкіх моў у школах, друку, мастацкай і навуковай літаратуры, у розных галінах культуры, шэрагу ўстаноў і грамадскіх арганізацый.

Лужыцкія мовы маюць вялікую цікавасць для лінгвістаў-кампаратывістаў і асабліва славістаў. Разам з палабскай мовай гэта найбольш аддаленыя паўночнаславянскія (заходнеславянская група) мовы. Іх перыферыйнае становішча ў славянскім моўным свеце спрыяе захаванню шэрага архаічных рыс. Вядомым прыкладам у лексіцы з'яўляецца верхнялужыцкае *wowka* 'бабуля', якое, не маючы паралеляў у іншых славянскіх мовах, адпавядае лацінскаму *avia*, гоцкаму *awo*. Або на перыферыі паўночнага славянства фіксуецца рускае *баган* і ніжнялужыцкае *bagan* 'балота каля крыніцы'. У фанетыцы, напрыклад, захавалася асаблівае вузкае *ě* (в.-л., н.-л. *slěd* 'след'), у марфалогіі — наяўнасць парнага ліку, у сінтаксісе — канструкцыя accusativus cum infinitivo.

Разам з іншымі заходнеславянскімі лужыцкія мовы проціпастаўляюцца ў шэрагу істотных рыс усходнім і паўднёвым мовам. Параўнаем, напрыклад, у фанетыцы: в.-л. *dróha*, н.-л. ***droga***, польск. ***droga***, харвацк. ***draga***, бел. *дарога; в.-л., н.-л. widly*, польск. *widly*, харвацк. *vile*, бел. *вілы*.

Заўважна адрозніваюцца лужыцкія мовы ад беларускай. Так, у іх няма акання, націск у словах падае на першы склад, ёсць складаная сістэма мінулых часоў (выкарыстоўваецца аорыст і імперфект). У гэтых мовах

нямала слоў, якія гучаць аднолькава ці амаль аднолькава, але маюць рознае значэнне. Напрыклад: в.-л., н.-л. *banka* 'банк', бел. *банка* 'пасудзіна'; в.-л., н.-л. *łuka* 'луг', бел. *луќа* 'паварот ракі, выгін'; в.-л., н.-л. *razny* 'дакладны, трапны', бел. *разны́* 'зроблены разьбой'; в.-л. *lapa* 'ануча', бел. *ляпа* 'пашча'.

У беларускай і лужыцкіх мовах можна, аднак, адзначыць шмат агульных рыс. Гэтыя паралелі назіраюцца ў тых выпадках, калі, па-першае, моўныя з'явы ўзыходзяць да агульнаславянскай эпохі (параўнайце формы з чаргаваннем зычных: в.-л. ***ruka — ručka — na ruce***, бел. ***рука — ручка — на руцэ;*** в.-л. *pisać — pišu*, н.-л. *pisaś — pišu*, бел. *пісаць — пішу);* падругое, у адпаведнасці з закладзенымі ў іх падобнымі тэндэнцыямі развіцця ў больш позні перыяд (параўнайце: выпадзенне галоснага пры скланенні: в.-л. *dźeń — dnja*, н.-л. *źeń — dnja*, бел. *дзень — дня;* своеасаблівае змяненне ранейшага мяккага г: в.-л. *ćichi*, н.-л. *śichy*, бел. *ціхі*); па-трэцяе, калі гаворка ідзе пра аднолькавыя запазычанні лужыцкімі і беларускай мовамі з якой-небудзь трэцяй мовы (напрыклад, бел. *мур* 'каменная сцяна', в.-л., н.-л. *murja* ' тое самае' з нямецкай *Mauer* — 'тое самае'). Некаторыя паралельныя з'явы ў лексіцы гэтых моў узніклі праз пасрэдніцтва польскай мовы, уплыў якой на беларускую ў некаторыя гістарычныя перыяды быў даволі адчувальны: бел. ***кветка***, польск. ***kwiat***, в.-л., н.-л. ***kwet;*** параўнайце: руск. ***цвет, цветок***.

Шмат у лужыцкіх і беларускай мовах слоў, аднолькавых альбо блізкіх паводле гучання, якія маюць тоеснае альбо падобнае значэнне: в.-л. *hlina* (н.-л. *glina*), в.-л. *pšeńca* (н.-л. *pšenica*), в.-л., н.-л. *mały*, в.-л. *žiwy* (н.-л. *zywy*), в.-л. *hladać* (н.-л. *glědaś*), в.-л. *witać* (н.-л. *witaś*) — бел. *гліна, пшаніца, малы, жывы, глядзець, вітаць.*

У лужыцкіх мовах, гэтаксама як і ў беларускай, на пачатку слова перад галоснымі часта ўжываюцца прыстаўныя зычныя: в.-л., н.-л. ***woko***, в.-л. ***wuhlo*** (н.-л. ***wugle***), в.-л. ***wótřić*** (н.-л. ***wostšić***), в.-л., н.-л. ***Hana*** — бел. ***вока, вугаль, вастрыць, Ганна.*** Ёсць цалкам ідэнтычныя канчаткі пры скланенні некаторых назоўнікаў. Напрыклад: в.-л. *sowa — sowy — sowje — sowu* ... бел. *сава — савы — саве — саву.* Выяўляецца падабенства і ў сінтаксісе: і лужыцкія, і беларуская мовы пазбягаюць канструкцый з незалежнымі дзеепрыметнікамі цяперашняга часу (напрыклад, з суфіксамі бел. *-ач-, -уч-*, луж. *-ас-, -ис-*). Яны звычайна замяняюцца дадзенымі сказамі.

Паміж верхнялужыцкай і ніжнялужыцкай мовамі існуюць наступныя фанетычныя адпаведнасці. Сярод галосных верхнялужыцкаму *a* з папярэдняй мяккасцю адпавядае ніжнялужыцкае *ě* (галосны пярэдняга рада блізкі да *i*): *mjaso — měso.* Верхнялужыцкаму *e* з папярэдняй мяккасцю — ніжнялужыцкае *a* з папярэдняй мяккасцю: *mjeza — mjaza.* Сярод зычных верхнялужыцкаму *h* адпавядае ніжнялужыцкае *g*: ***noha — noga.*** Верхнялужыцкаму *ć* адпавядае ніжнялужыцкае *ś* (суфікс інфінітыву *ć — ś*): ***brać — braś***; верхнялужыцкаму *dź* — ніжнялужыцкае *ź*: ***dźowka*** 'дачка' — ***źowka*** і г. д.

Праблемамі сарабістыкі (сербалужыцкай філалогіі) у Расіі пачалі займацца ў 1860-я гады. Значны ўклад у гэту галіну навукі зрабілі вучоныя І. І. Сразнеўскі, А. Ф. Гільфердзінг, Л. У. Шчэрба. У СССР пытанні сарабістыкі даследавалі М. І. Ермакова, Л. Э. Калнынь, Л. П. Лапцева (Масква); К. К. Трафімовіч, В. А. Маторны (Львоў); А. Я. Супрун (Мінск); А. Д. Дулічэнка (Тарту); А. А. Іўчанка (Харкаў). Мастацкім перакладам з лужыцкіх моў на беларускую займаецца А. П. Траяноўскі.

*Літ.:* Ермакова М. И. Очерк грамматики верхнелужицкого литературного языка: Морфология. М., 1973; Трофимович К. К. Верхнелужицко-русский словарь. М.; Bautzen, 1974; Яго ж. Серболужицкий язык. Мн., 1989; Селищев А. М. Славянское языкознание. Т. 1. Западнославянские языки. М., 1941.

*К. К. Трафімовіч.*

## ЛЫНЬКОЎ МІХАСЬ ЦІХАНАВІЧ



Празаік, крытык, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч М. Ц. Лынькоў нарадзіўся 30 лістапада 1899 г. ў в. Зазыбы Лёзненскага раёна. Народны пісьменнік БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1953, член-карэспандэнт 1936). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа 1968 г. (за раман-тэтралогію «Векапомныя дні»). У 1917 г. скончыў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю, у 1917—19 і ў 1922—25 гг. настаўнічаў у Буда-Кашалёўскім і Рагачоўскім раёнах. У 1925—30 гг. адказны сакратар, рэдактар бабруйскай акруговай газеты «Камуніст», у 1930—32 гг. у Дзяржаўным выдавецтве БССР, у 1933—41 гг. галоўны рэдактар часопіса «Полымя рэвалюцыі». У 1939 г. рэдактар газеты «Беларуская звязда», а ў 1941—42 гг.— «За Савецкую Беларусь». У 1938—48 гг. старшыня СП БССР, у 1943—46, 1949—52 гг. дырэктар Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР. Памёр 18 верасня 1975 г.

Пра культуру беларускай мовы пісаў у артыкулах «Канец «дзярбонікам» (1934) і «Важнейшыя задачы беларускай лінгвістыкі» (1939). Крытыкаваў «самабытныя», беспадстаўныя меркаванні недасведчанага рэдактара пра ўжыванне і значэнне паасобных беларускіх слоў — у артыкуле «Пра некаторых Угрум-Бурчэевых... ці прыгоды аднаго лінгвіста» (1939).

Першы перыяд творчасці М. Лынькова (1920-я — пачатак 1930-х гадоў) прыпадае на перыяд актыўнай нармалізацыі граматычнага ладу, лексікі беларускай літаратурнай мовы, выпрацоўкі навуковага, публіцыстычнага, афіцыйна-дзелавога стыляў. Творы беларускіх пісьменнікаў гэтага часу прысвечаны пераважна вясковай тэматыцы. Гэтым тлумачыцца шырокае ўжыванне бытавой лексікі, захапленне дыялектызмамі або правінцыялізмамі. Вядомыя дзеячы беларускай культуры, пісьменнікі, вучоныя выступалі супраць злоўжывання дыялектызмамі. Так, Я. Колас, аналізуючы раман М. Лынькова «На чырвоных лядах», прызнае яго аўтара «выдатным майстрам слова», але разам з тым і папракае за тое, што той не заўсёды ўважліва ставіцца да мовы, дапускае шмат адхіленняў ад літаратурных норм, у прыватнасці вузкіх правінцыялізмаў: *скукарэчаны* 'скурчаны', *прымружаны* 'прыжмураны', *вобмегам* 'мігам', *собіла* 'удалося', *налапам* 'нахабна' і інш. Некаторыя з тых слоў, якія Я. Колас адносіў да правінцыялізмаў, сталі агульнаўжывальнымі і падаюцца ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы як стылістычна нейтральныя *(арэлі)* або гутарковыя *(нягеглы)*. Я. Колас адзначыў таксама моўныя заганы рамана, якія датычаць пабудовы сказаў, нематываваных паўтораў, ужывання русізмаў. Як успамінаў пазней М. Лынькоў, «усё гэта былі слушныя заўвагі, самая справядлівая і каштоўная крытыка» (Літаратура і жыццё. Мн., 1978. С. 352).

Характэрнай асаблівасцю лынькоўскага стылю (як ранняга перыяду творчасці, так і сталага) з'яўляецца лірызм і гумар. Лірычнасць, эмацыянальнасць прозы дасягаецца ужываннем лексічных сродкаў, напрыклад, эмацыянальна-ацэначных эпітэтаў:

*Сінія змрокі ахінаюць паветра, і ляціць яно насустрач,* ***халоднае, калючае, празрыстае*** («Талісман»); марфалагічных — форм з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі: *А поплеч Васька Шкетаў, захліпаючыся, сыпле незразумелыя словы: — Ноч ты мая,* **начанька, ночанька** *блакітная...* («Над Бугам»); своеасаблівым сінтаксісам — з клічнымі канструкцыямі, рытарычнымі пытаннямі, няўласна-простай мовай, інверсійным парадкам слоў і інш.: — *І ляцім жа, браткі! Э-эх, ляцім!.. Даганяй — не дагоніш...* («Андрэй Лятун»); *Хто ж плача, калі палюбіць? Хто аблівае слязьмі сэрца, у якім узняліся кіпучыя агні, выраслі вялікія крыллі?* («Гой»); *Ядвіся слухае, як шумяць за акном дрэвы. Глухі сабачы брэх далятае адтуль.*

*Ах, гэтыя сабакі, яны такія злыя, панскія сабакі... Вунь брэшуць, аж заліваюцца. Ці то на месяц, ці то на рыпучыя сосны, ці з якой другой прычыны* («Ядвісін дуб»); *Усміхнулася раніца ўсмешкаю сонечнай саламяным хатам. Прачнулася мястэчка, прачнулася і Рыва* («Гой»).

Своеасаблівым сродкам лірызацыі прозы Лынькова 1920—30-х гг. была яе рытмізацыя, якую стваралі рытмічныя фігуры (сінтагмы), інверсійны парадак слоў, элементы сінтаксічнага паралелізму ў пабудове сказаў, лексічныя паўторы розных відаў (анафара, эпіфара і інш.). Рытмізацыя служыла рамантычнай формай «узвышанага, пафасна-прыўзнятага адлюстравання рэчаіснасці» (Бугаёў Д. Шчодрае сэрца пісьменніка. Мн., 1963. С. 127):

*І плакала Рыва...*

*Плакала ціха, непрыкметна, тымі прыдушанымі слязьмі, якія цяжка стрымаць, цяжка высушыць, бо ідуць яны ад самай глыбіні сэрца...*

*Плакала Рыва... Яна палюбіла гоя* («Гой»). Адпаведным чаргаваннем рознарытмічных фігур пісьменнік стварае адметны рытміка-меладычны малюнак плачу Рывы з кантрастным інтанацыйна-эмацыянальным напружаннем.

Характар лірызму лынькоўскай прозы ўвесь час мяняўся. М. Лынькоў «паступова, але настойліва вызваляўся ад празмернай метафарычнасці і гіпербалічнасці, залішняй расквечанасці радка, рэзкай стракатасці фарбаў і іншых крайнасцей сваёй індывідуальнай мастацкай манеры, нярэдка дастаткова прыкметных у ранняй творчасці» (Тамсама. С. 169)

Іронія, гумар перадаюцца з дапамогай устойлівых адзінак (трапных народных выразаў, прыказак і прымавак, фразеалагізмаў), эўфемізмаў, параўнанняў, адметнай гутарковай інтанацыі і інш.: *Не даварыўшы, панюхаў* (Васька Шкетаў) *і, памянуўшы хрыста з усім сваяцтвам, выліў* ***цудоўную*** *страву з усімі* ***прысмакамі*** *пад лазовы куст...* («Над Бугам»); *Паведаміла матка і аб крамніку Еселі, які нібы матцы сваёй прызнаўся, што яго сэрца даўно сасмагла па Рыве,* ***як той гаршчок цымусу,*** *што доўгуюдоўгую суботнюю ноч смагне ў печы* («Гой»); — *Уга... знайшлі ціхоню... Гэта не дзед, а яхіда чыстая... Няма на яго ніякага ўгамону, ва ўсякую маю справу свой нос уткне... Учора, што вы думаеце, надумаўся аладкі пячы: колькі мукі перапсаваў, сала перапаліў.. А потым як узлуецца, дык яшчэ мяне аблаяў. Ён мяне за-а-цірказ абазваў...* («Дзед Аўсей і Палашка»).

Лынькоў па-майстэрску выкарыстоўваў лексіку і фразеалогію беларускай мовы, выяўленчыя магчымасці марфалогіі і сінтаксісу. З лексічных сродкаў найбольш пашыраны ў творах пісьменніка сінонімы: *Немцы захапілі Смаленск. Яны* ***трубілі*** *аб гэтым штодня,* ***крычалі*** *аб блізкай перамозе, аб блізкім канцы вайны* («Векапомныя дні»). Сінаніміцы ўласцівы глыбокая народнасць і экспрэсіўнасць. Да слова *казаць* у рамане «Векапомныя дні», паводле назіранняў Т. Ф. Сцяшковіч, ужываецца больш за 70 сінонімаў з розным сэнсавым адценнем і выразнай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай: *малоць, плявузгаць, ляпнуць, буркнуць, вярзці, сіпець, трубіць, бубніць, мармытаць, брахаць, гаманіць, сыпаць, скуголіць, чаўпсці, грымнуць, выдумляць, адкалоць, агрызацца, мямліць, адпаліць, прамычаць, шчабятаць, дзяўбсці, балбатаць* і інш. Апрача моўных (агульнаўжывальных) сінонімаў, Лынькоў з поспехам выкарыстоўваў і індывідуальна-аўтарскія (кантэкстуальныя). Да слова *глядзець: позірк каўзануўся, шныпарыў вачыма, вочы ўгрызаліся, вочы ўпіліся, вочы ходзяць (шныпараць, бегаюць), уныпіўся ў паперу* і інш. Каб зрабіць мову твораў больш выразнай, Лынькоў часта выкарыстоўвае перыфразу: *І ціха-ціха, толькі і магла ўчуць яго словы заснуўшая навечна* ***дзяўчынка****, не то сказаў, не то запытаўся ў яе:*

*— Хто ж нам,* ***мая маленькая сінічка,*** *перашкодзіў жыць... Хто хоча нам смерці?* («Пацалунак»).

Мастацкая выразнасць дасягаецца плённым выкарыстаннем эпітэтаў, метафар: *Дрыжачай рукой націскае Андрэй на* ***бліскучы*** *рэгулятар, напружваецца сам, як магутны паравоз, і, радасны, прыслухоўваецца, як* ***хліпае*** *гарачая пара ў шырокіх паравозных трубах, як ляскочуць усё шыбчэй і шыбчэй* ***гарэзныя*** *высокія колы паравоза, як пыхкае пара з-пад* ***бліскучых,*** *гарачых поршняў цылiндра* («Андрэй Лятун»), як сродак кантрасту, проціпастаўлення з'яў і паняццяў выкарыстоўваецца антытэза: *Лесам ішоў чалавек. Не* ***ішоў,*** *а* ***бег,*** *торапка перастаўляючы ногі...* («Сінія галіфэ»).

Сродкам стылістычнай выразнасці (для апісання месца дзеяння, абставін, праўдзівай моўнай характарыстыкі персанажаў) з'яўляюцца дыялектызмы: *...клепяць косы, стукаюць спрытныя малаткі ды раз па разу пераліваюцца косы срэбным шорхатам мянташак — то наводзіцца касовае лязо, выганяюцца* ***лапатухі*** («На чырвоных лядах»), стылістычна афарбаваныя словы — гутарковыя і кніжныя: — *Эх, Андрэй, Андрэй, да чаго ж ты дажыў, да чаго ж* ***дастукаўся:*** *ні раздолля табе, ні жазлоў, ні пуцёвак... Стой,* ***гібей*** *са сваёй* ***«кукушкай-свістушкай»****, чакай гнілых шпал, платформу адвядзеш за паўсотні сажняў* («Андрэй Лятун»); *Капуша* ***атакаваў на бліжніх подступах*** *вяндліну* («Векапомныя дні»), прафесіяналізмы: *Бразнуўшы молатам і* ***падсумкам з кастылямі*** і *памацаўшы шчаку, ён* [Антон] *лезе на прыступкі і, скрывіўшы твар, кажа «дзень добры»* («Андрэй Лятун») і жарганізмы: *...а людскія* ***заткалы****-раты гнусавяць лянiва: «Гэй ты, чалавек...» — «Шантрапа...» — «****Замухрыжаны шкет...****»* («Над Бугам»).

Фразеалогія (фразеалагізмы, прыказкі, прымаўкі) — пераважна народнага паходжання, выразны сродак моўнай характарыстыкі персанажаў, аўтарскай ацэнкі герояў, іх дзеянняў, учынкаў і г. д.: *Дзябёлая палавіна* ***кінула*** *на мужа маланкавы* ***зірк*** *і* ***ўляпіла*** *яму* ***такога ляшча,*** *што ў яго вылецела парасячая костка з рук і з усяго размаху бразнулася аб графін* («Векапомныя дні»); *Некаторыя* [бандыты] ***лататы хацелі даць,*** *ды пасажыры скемілі...* («Андрэй Лятун»);— *У вас, бачу я, высокапастаўлены* ***пан прэзідэнт,*** *выходзіць, паводле нашай індыйскай прыказкі:* ***купіў гаспадар сабаку,*** *дык* ***няхай сабака і брэша!*** («Асамблейныя замалёўкі»).

Выяўленчую ролю адыгрываюць у творах розныя часціны мовы і іх формы, напрыклад роду, ліку і суб'ектыўнай ацэнкі назоўнікаў: — *Ключы да вас у мяне ёсць заўсёды, вось яны,— і Астап любоўна пагладзіў свой аўтамат.— Да любога фашыста падыходзяць, адмыкаюць у адзін* ***секунд*** («Векапомныя дні»); — *Не патрэбны мне* ***прыказчыкі*** *вашы. Няхай і не ідзе* («Гой»); *Пан Рудэк калаціўся ўвесь. Яго* ***пісталецік*** *нервова тыцкаўся ў спіну чалавеку* («Тонкая сітуацыя»), ступені параўнання якасных прыметнікаў, формы з эмацыянальна-экспрэсіўна афарбаванымі прэфіксамі і суфіксамі: — *Каму што, а мне блакітная* [ноч]. *Каму цемень, а мне — жысць ты мая, жысць ты мая* ***размалінавая!*** [«Над Бугам»); *А цяпер гэта пачуццё — нібы не хапае каго ля цябе, з кім можна, як* ***з самым найбліжэйшым, самым дарагім*** *таварышам, падзяліцца і горам і радасцю...* («Гой»), формы часу, ладу дзеясловаў і інш.: *Але тут як* ***падскочыць конь, як падкіне*** *ўгору заднія ногі, не ўтрымаўся дзед і лёгкай птахай узвіўся ў паветра* («Міколка-паравоз»); ***Вазьмі і запытайся*** *тады Міколка:*

*— То вы гранаты і кулямёты вазілі ў лес хаваць, відаць, пад тыя старыя яліны...* («Васількі»); *Ён ведаў:* ***прыйдзе*** *ён ноччу, і гэтыя позіркі могуць ператварыцца ў гарачую свінцовую кулю* («Салют»).

Сярод сінтаксічных сродкаў прыкметнае месца займаюць паўторы, інверсійныя канструкцыі, канструкцыі непаўнаты, параўнанні, няўласна-простая мова і інш. Напрыклад: *Па рэйках тых бягуць цягнікі. Бягуць і днём, і ноччу. І шэраю раніцай. Калі яшчэ сонца не ўзыходзіць. Калі яшчэ Міколка спіць. Калі спяць усе звычайныя людзі, якія ноччу не ў машыністах, не ў кандуктарах, не ў рабочых дэпо, не ў абходчыках пуцявых. А цягнікі ідуць. Зімой і летам, увосень і ўвесну* («Міколка-паравоз»).

Выяўленчую функцыю выконваюць у творах «гаваркія» прозвішчы (прозвішчы-характарыстыкі), якія ўказваюць на некаторыя істотныя рысы іх носьбітаў. Прозвішчы маюць станоўчую ацэнку — машыніст Андрэй *Лятун* (ад *лятаць* — пераноснае 'вельмі хутка, імкліва ехаць, ісці; імчацца') і адмоўную — здраднікі *Слімак* (ад *слімак* — размоўна-зневажальнае — пра бязвольнага, бесхарактарнага чалавека), *Клопікаў* (ад *клоп* — пераносна-зневажальнае 'затоены, скрыты крывасмок') і інш.

Па-мастацку выкарыстоўваючы невычэрпныя рэсурсы народна-дыялектнай мовы (лексіку, фразеалогію і сінтаксіс), М. Лынькоў значна абагаціў выяўленчыя магчымасці беларускай літаратурнай мовы.

*Літ.:* Гарэцкі М. Колькі слоў аб творах і мове М. Лынькова // Маладняк. 1928. № 6; Агіевіч У. Літаратура і жыццё. Мн., 1954; Куляшоў Ф. Эцюды аб прозе. Мн., 1964; Сцяшковіч Т. Ф. Мова твораў Міхася Лынькова. Гродна, 1965; Я е ж. Мова эпапеі Міхася Лынькова «Векапомныя дні». Гродна, 1965; Емельяновіч В. А. Апавяданне Міхася Лынькова «Над Бугам» // Лінгвістычны аналіз тэксту: Матэрыялы семінара. Мн., 1975 *В. І. Рагаўцоў.*

М — Устаў 11 ст.

М — Паўустаў 15 ст.

М — Паўустаў 16 ст.

М — Паўустаў 17 ст.

М — Скарапіс 15 ст.

М — Скарапіс 16 ст.

М м — Скарапіс 17 ст.

М м — Ф. Скарыны 16 ст.

М м — Статута ВКЛ 1588 г.

М м — Друкаваная 17 ст.

М м — Грамадзянская 18 ст.

*Мая мова не знае змярканняў*
*ад маленства да старасці лет,*
*буду песціць яе, як каханне,*
*разглядаць, як чароўны букет.*
*Можа мовы чужой навучуся,*
*каб суседзяў гасцінна вітаць,*
*але толькі на ёй, беларускай,*
*буду людзям аб долі пяяць.*
*Мая мова, як шчасце на вуснах,*
*хваляванне гарачы прыбой,*
*можа быць, на чужой засмяюся,*
*ўсё ж заплачу з тугі на сваёй.*

Ларыса Геніюш



**М** — *чатырнаццатая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай М («мыслеце»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай М («мі»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* м, м' (масло, минута). *Мела таксама лічбавае значэнне «сорак». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваццa як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае санорныя змычна-праходныя губна-губныя зычныя гукі* м, м' (мара, мядунка — *«м'адунка»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную формы. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (МБА, МАЗ), як умоўнае скарачэнне слоў «метр» (30 м), «мора» (Балтыйскае м.). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «трынаццаты» (група «М»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 9м).* *А. М. Булыка.*

## МАДАЛЬНАСЦЬ

Возьмем самыя простыя сказы: *Ідзе дождж. Антось сказаў сябрам праўду.* Яны перадаюць звесткі аб рэальных пазамоўных фактах. Змяняючы інтанацыю, форму членаў сказаў, дадаючы новыя словы службовага або паўслужбовага характару, можна атрымаць іншыя сказы, у сэнсавай аснове якіх будуць ляжаць тыя самыя факты. Напрыклад: *Эх, калі б пайшоў дождж! Хай Антось скажа сябрам праўду!* Або: *Ідзе дождж? Антось, мне здаецца, не сказаў сябрам праўды.*

Такіх выказванняў-варыянтаў на адну і тую ж тэму — пра «дождж», пра «Антося і сяброў» і падобных — можна стварыць многа. Пры гэтым асноўная, фактaлагічная семантыка сказаў застаецца нязменнай, але перайначваецца спосаб моўнага адлюстравання з'яў і падзей рэчаіснасці. То гэта канстатацыя падзеі: *Дождж ідзе,* то пажаданне, каб яна адбылася: *Хай бы дождж пайшоў,* то сумненне ў яе верагоднасці: *Няўжо дождж ідзе?,* то нібыта ўмова для іншай падзеі: *Калі б пайшоў дождж, то...* Як відаць, пры гэтым мяняюцца адносіны моўцы да фактаў рэчаіснасці і спосаб іх маўленчай перадачы.

«Спосаб» па-лацінску modus. Ад кораня гэтага слова ўтвораны моваэнаўчы тэрмін «мадальнасць». Гэтым тэрмінам абазначаецца семантыка-граматычная катэгорыя, што грунтуецца на спосабах перадачы адносін таго, хто гаворыць (моўцы), да выказвання і выказвання да рэчаіснасці. Моўца як бы ацэньвае факты і падзеі, пра якія гаворыць: рэальнасць або нерэальнасць (ірэальнасць) зместу выказвання, магчымасць або немагчымасць падзеі, пажаданасць яе або непажаданасць і г. д. Пры гэтым для перадачы такіх ацэнак выкарыстоўваюцца разнастайныя фармальныя сродкі мовы: фанетычныя (інтанацыя), марфалагічныя, лексічныя, сінтаксічныя і іх камбінацыі.

Мадальнасць — катэгорыя ўнутрана вельмі разнапланавая. Межы гэтай катэгорыі акрэсліваюць па-рознаму. Да яе адносяць, напрыклад, сэнсавыя адрозненні паміж фактaлагічна тоеснымі сказамі ў залежнасці ад мэты выказвання (сцвярджэнне — пытанне — пабуджэнне), ад ступені рэальнасці падзеі (рэальнасць — магчымасць — дапушчальнасць — неверагоднасць — нерэальнасць), ад наяўнасці або адсутнасці пазамоўнага факта (сцвярджэнне — адмаўленне), ад ацэнкі намераў і магчымасцей суб'екта дзеяння (*хоча — можа — мусіць — павінен — абавязаны...*) або вартасці самога дзеяння (*трэба — неабходна — пажадана — добра было б...*), ад лагічнай і экспрэсіўнай характарыстыкі тэмы выказвання (*сапраўды — бясспрэчна — відаць — цяжка паверыць — магчыма...*) і інш.

Адрозніваюць мадальнасць аб'ектыўную і суб'ектыўную. Аб'ектыўная мадальнасць заключаецца ў перадачы адносін выказвання да рэчаіснасці. Гэтыя адносіны выражаюцца шляхам процiпастаўлення форм абвеснага ладу (звычайна дзеяслова-выказніка, але і абвеснага значэння выказвання ў цэлым) формам умоўнага і загаднага ладу. Формы абвеснага ладу праз сістэму катэгорый часу паказваюць на рэальнасць дзеяння, якое адбываецца, адбылося ці адбудзецца. Формы ўмоўнага і загаднага ладу апісваюць факты і падзеі як бы па-за часам, пераносячы іх у план пажаданага, патрэбнага або неабходнага, г. зн. не рэальнага, а ўяўнага. Параўнайце: *У нас весела; У нас было весела; У нас будзе весела* — з аднаго боку, і з другога — *Хай будзе ў нас весела! Калі б у нас было весела! Хай бы ў нас стала весела! Было б у нас весела, дык...* Катэгорыя аб'ектыўнай мадальнасці рэалізуецца з дапамогай ладу і часу (з іх уласнымі фармальнымі паказчыкамі), а таксама розных тыпаў інтанацыі.

Суб'ектыўная мадальнасць — гэта дадатковыя значэнні, звязаныя з перадачай адносін моўцы да таго, што ён гаворыць. Семантыка суб'ектыўнай мадальнасці значна шырэйшая за семантыку мадальнасці аб'ектыўнай, адпаведна і больш разнастайнымі з'яўляюцца яе фармальныя паказчыкі. Да іх адносяцца мадальныя словы і звароты (у сказе — пабочныя): *Ехалі, ці праўдзівей сказаць, паўзлі ўсю ноч і раніцу* (К. Чорны); мадальныя дзеясловы і прыметнікі (у сказе — частка выказніка): *Назаўжды цябе забыць я мушу* (Я. Непачаловіч); мадальныя часціцы: *Аж нейкі пот праняў Міхала. Аж нават шапка чуць не спала* (Я. Колас); выклічнікі з

семантыкай дзеяслоўнага дзеяння: *Іванка шусь яе ў печ! І засланкаю зачыніў!* (П. Місько); парадак слоў: *Маленства сцежкі мілыя, бывайце!* (Н. Гілевіч); лексічныя паўторы: *Сонца за борам жар-птушкай садзіцца, штосьці спявае пяшчотнае бор, пахне чабор, пахне чабор...* (П. Броўка); пераноснае ўжыванне граматычных форм: *Будзе ён цябе слухаць!*, г. зн. 'ён цябе не паслухае'; розныя структурныя схемы сказаў: *Сядзець табе і не рухацца! Грыбоў хоць касой касі. Гэтага яшчэ не хапала!*; інтанацыя ў спалучэнні з іншымі сродкамі: *Што за цудоўная зямля! Як лёгка ідзецца па ёй...* (Я. Брыль) і інш.

Мадальнасць — катэгорыя, якая ахоплівае ўсё маўленне, кожнае выказванне. Нездарма гаворыцца: важнае не толькі **што** сказана, але і **як** сказана. Гэтае **як, якім спосабам** і ёсць «модус» маўлення, які знаходзіць свой адбітак у моўнай катэгорыі мадальнасці.

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 1—2. Мн., 1985—86; Виноградов В. В. О категории модальности и модальных словах в русском языке // Тр. Ин-та русского языка АН СССР. Т. 2. М.; Л., 1950; Михневич А. Е. Модальность высказывания // Кривицкий А. А., Михневич А. Е., Подлужный А. И. Белорусский язык для говорящих по-русски. 3 изд. Мн., 1990. *А. Я. Міхневіч.*

## МАКАЁНАК АНДРЭЙ ЯГОРАВІЧ



Беларускі драматург А. Я. Макаёнак нарадзіўся 12 лістапада 1920 г. ў в. Борхаў Рагачоўскага раёна. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы 1962 г. (за п'есу «Лявоніха на арбіце») і Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа 1974 г. (за п'есы «Трыбунал» і «Таблетку пад язык»). У 1949—53 гг. працаваў у часопісе «Вожык», у 1966—77 гг.— галоўны рэдактар часопіса «Нёман». З 1946 г. друкаваў гумарэскі, фельетоны, нарысы. Аўтар п'ес «На досвітку» (1951), «Выбачайце, калі ласка!» (1953), «Каб людзі не журыліся» (1958), «Зацюканы апостал» (1971), «Святая прастата» (1974), «Верачка» (1979) і інш. Памёр 16 лістапада 1982 г.

Мова твораў А. Макаёнка глыбока народная, шматфарбная, поліфанічная; гэта сапраўдны ўзор па-мастацку ўзважанага, эстэтычна асэнсаванага выкарыстання патэнцыяльных магчымасцей літаратурнай і дыялектнай плыняў.

Героі п'ес А. Макаёнка ўмела карыстаюцца сродкамі, на якія багата народная мова,— эпітэтамі, параўнаннямі, ласкальна-памяншальнымі формамі слоў, зваротамі да іншых і г. д.: *Дзед Цыбулька. Ах вы, ластавачкі! Ах вы, сінічкі-перапёлачкі! Вярнуць бы мне маладосць... О-о-о!..* («Таблетку пад язык»); *Клава. Лявонка, дарагі мой! Ці ў гэтым шчасце? Павер мне, грэшнай. (Пагардліва). Курачкі, гусачкі, пчолкі, каровка... Ну, колькі ўсяго гэтага чалавеку трэба? Ці ты ўсіх парсючкоў ды курачак, гусакоў ды гусачак з'ясі? Ці так ужо табе многа трэба таго малака?* («Лявоніха на арбіце»). *Антаніна Цімафееўна. Заходзьце, мілая, заходзьце сюды. (Паставіла крэсла каля дзвярэй). Сядайце, калі ласка, сядайце. Ганна. Дзякую, галубка, дзякую. Няма калі мне сядзець; Марыя Кірылаўна. А мая ж ты дачушка! А мая ж ты ягадка! Ён жа цябе гадаваў, ён жа цябе паіў-карміў. А хто ж за яго папросіць? Хто ж за яго заступіцца?* («Выбачайце, калі ласка!»); *Паліна. Ай, Надзейка ты мая, малінка ты мая, ягадка-сунічка. <...> А божачка мой, божа! А што ж ты такое гаворыш? А калі хто ўбачыў ці падпільнаваў? Гэта ж і табе канец і нам усім! <...> Цярэшка. Ух ты, ласкавая мая! Жаласлівая мая! Харошая мая! Ненаглядная мая! Зорачка ясная! Зінка мая, слязінка мая...* («Трыбунал»).

У маналогах, дыялогах, палілогах персанажаў А. Макаёнак па-майстэрску і мэтанакіравана выкарыстоўвае як сродак бездакорнай моўнай самахарактарыстыкі герояў народна-гутарковыя элементы. Яны робяць мову дзеючых асоб крыштальна народнай, надаюць ёй непадробную натуральнасць, першароднасць. Дасягаецца гэта ўжываннем адпаведных моўных сродкаў: фанетычных (пытальная і клічная інтанацыя, інтанацыя недагаворвання), лексіка-фразеалагічных (размоўна-бытавыя словы, словы з багатымі эмацыянальна-экспрэсіўнымі магчымасцямі, устойлівыя звароты і інш.), марфалагічных (часціцы, выклічнікі, словы с суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі, непаўнаты якасці і інш.) і сінтаксічных (часцей простыя і няпоўныя сказы, бяззлучнікавыя сказы, паўторы, парадак слоў, пабочныя словы, звароткі і інш.). Як правіла, адзначаныя сродкі ўжываюцца не паасобку, а ў арганічным сплаве, ствараючы патрэбны выяўленча-стылістычны эфект: *Цярэшка (пераступіўшы цераз парог). Паліна! Полюшка-Поля! Дзе ты тута-а? А-а, вось яна дзе-е! Полюшка! Хуценька саланіну, нясі яйкі, нясі гурочкі-галубочкі, капустачку кісленькую* («Трыбунал»).

Вытокі выразнай індывідуальнасці, натуральнай, дакладнай, характарыстычнай мовы персанажаў — у высокім драматургічным майстэрстве А. Макаёнка. Так, старшыня калгаса Гарошка («Выбачайце, калі ласка!») часта ўжывае пытальную часціцу *не ў* канцы сказа *(Не магу спакайней! Даволі! Я сам ведаю, што дзяржаве трэба здаваць хлеб. І здам! Не?)*, любімы яго выраз *хоць круць-верць, хоць верць-круць (Хоць круць-верць, хоць верць-круць — усё адно я вінаваты)*. Дзед Цыбулька («Таблетку пад язык»), каб паказаць свой розум, начытанасць, выявіць інтэлект вундэркінда, побач з гутарковымі словамі ўжывае кніжныя словы і выразы: *дыялектыка, дэмагог, палітэканомія, гістмат, рэляцыя, перспектыва, навукова-тэхнічная рэвалюцыя* і інш. Апрача таго, мова Цыбулькі перасыпана фразеалагізмамі, прыказкамі, прымаўкамі, трапнымі народнымі выразамі, крылатымі словамі (*Прамядленіе смерці падобна!; Голай рукой не бяры; Цяпер мы самі з вусамі; Перавесці дух; Не лезці ж пад гарачую руку; Каб грыбы былі смачныя, дык ваўкі не бегалі б з лесу авечак хапаць; Быць альбо не быць?; Радзіма — гэта святое* і інш.). Мова Цярэшкі («Каб людзі не журыліся») выдзяляецца ўстойлівымі спалучэннямі слоў (*Калі ў хаце няма ката, дык мышы і на стале гойсаюць; Куды ні кінь, дык клін; К лепшаму лёгка прывыкаць, адвыкаць нялёгка; Ведае кот, чыё сала ўкраў; Я даў бы, ды не ведаю, дзе ўзяць* і інш.).

Для перадачы напружанага эмацыянальнага стану персанажаў (радасці, захаплення, гора, смутку, гневу, знявагі і інш.) драматург выкарыстоўвае эмфатычны націск — больш працяглае вымаўленне націскных галосных ці пачатковых зычных у слове: *Зіна. А татулечка мой ро-о-дненькі... (Галосіць). А галовачка твая бе-едненькая-я-я! А ручкі-ножкі твае няшчасненькія! (Абдымае бацьку, цалуе яго, сама слязамі заліваецца, але ж... не развязвае — «Трыбунал»); Дачка (шыпіць). Даносчык. Ш-шпіён.* («Зацюканы апостал»). Усхваляванасць, узрушанасць дзейных асоб перадаецца ўмаўчаннем — раптоўным перапынкам у маўленні: *Цярэшка. Дзела гавару, нявестачка. Яны... толькі што... вывелі мяне... у на-чальства! Першы раз у жыцці начальнікам стаў. Ну і адпалілі штуку! А? А ці хто ждаў, а ці хто сніў? Аж*

*калені трымцяць... Во халера — трымцяць!...* («Трыбунал»).

Каб высмеяць адмоўныя з'явы жыцця, выкрыць заганныя рысы характару персанажаў, А. Макаёнак удала выкарыстоўвае іронію. Станоўчы эпітэт *любы* (дарагі, каханы) у мове Паліны («Трыбунал»), афарбаваны з'едліва-зневажальным тонам, набывае процілеглае значэнне і выклікае ўсмешку: *У цябе тры сыны на фронце, у цябе два зяці недзе на вайне! А ты... Ах ты... такую тваю распратакую!.. Надзейка! Вунь там, пад лаўкай, цяг ляжыць. Нясі-тка яго мне. (Мужу, з болем). А ты ідзі сюды, любы! Ну, каму кажу?! Быстра-а!!!* Або ў п'есе «Таблетку пад язык»: *Дзед Цыбулька. Каму ета ты стольні ласкавых слоў нагаварыла?* Іранічны сэнс прыметніка «падказвальнага» зместам папярэдняй рэплікі Аксаны *Каб табе пуста было! Каб на табе ліха ездзіла!* і іншых «ласкавых», «пяшчотных» слоў. Гумар выяўляецца ў рэпліках, лексіка якіх тэматычна і стылістычна не адпавядае тэме гутаркі: *Лявон (з пагардай). Бабскі розум. А вось ён разумее. (Паказаў на старшыню). Таму і такі прыцэл бярэ... Карова — гэта мая свабода, мая эканамічная незалежнасць. Гэта — мой бастыён, мой дот! Расшыфроўваю: «долговременная оборонительная точка»* («Лявоніха на арбіце»).

Камізм у п'есах А. Макаёнка ствараецца своеасаблівым выкарыстаннем моўных сродкаў. Драматург выкарыстоўвае полісемантычныя словы, значэнне якіх па-рознаму разумеюць дзеючыя асобы: адна — як прамое, другая — як пераноснае, або наадварот: *з'есці* 'паесці' і 'звесці са свету, загубіць' [*Самасееў. Во-во-во!.. Іменна разабрацца! Тут жа такія людзі, што... За тры гады чатырох старшынь з'елі. Кавальчук. З'елі? Самасееў. З'елі і гузікі выплюнулі. Кавальчук. Чатырох? Самасееў. Я — пяты. Кавальчук. Ну і апетыты!* («Каб людзі не журыліся»)] *садзіцца* 'займаць месца' *і* 'пазбаўляцца волі' [*Лушка. Па закону ім* (маладым) *яшчэ рана поруч садзіцца. Соня, памагай мне. Буйкевіч (Лявону, двухсэнсоўна). А табе па закону самы раз садзіцца... Лявон. За што? Гэта яшчэ не факт! Буйкевіч (рагоча). Як не факт? Сваты — не факт? Жаніх — не факт?* («Лявоніха на арбіце»)].

Камедыйны каламбур А. Макаёнка ствараецца заменай аднаго са слоў папярэдняй рэплікі сугучным словам (паронімам): *Дзед Цыбулька. А чаму гэта урбанізацыя ўжо стала і нездаровай, і на жаль? Ломцеў (здзівіўся). Ух ты! А ён — эрудыт! Дзед Цыбулька. Зараз разбяромся, хто ерундзіт.* Такі ж вынік дае пераасэнсаванне фразеалагізма: наўмыснае (уяўнае), калі суразмоўнік знарок успрымае фразеалагізм як свабоднае словазлучэнне з прамым значэннем: *Валодзька. <...> Я ледзь не згарэў ад сораму. Цярэшка. А і не згарэў. Цэлы астаўся.* («Трыбунал»), і ненаўмыснае (сапраўднае) разуменне фразеалагізма адначасова як метафарычнага і прамога рознымі дзеючымі асобамі: *Антаніна Цімафееўна. А дзе ж ён? ⟨муж⟩. Ганна. Сабакам сена косіць. Антаніна Цімафееўна. Сабакам? Ганна. Можа, і кошкам, хто яго ведае* («Выбачайце, калі ласка!»). Камедыйны эфект дасягаецца і шляхам разбурэння фразеалагізма: *Лявон. Ты што? З глузду з'ехала? Лушка. Не, даражэнькі мой! Уз'ехала на глузд!* ⟨...⟩ («Лявоніха на арбіце»); ці ў выніку сутыкнення слова і ўстойлівага словазлучэння з гэтым словам: *Скаромны. Уладзімір Андрэевіч! Дагавор гатовы. Мая пячатка на месцы. Подпіс тут жа. Засталося вам падпісаць і далікатна, як пацалунак, прытуліць сваю пячатку. І канцы. Дзед Цыбулька. І канцы ў ваду?* («Таблетку пад язык»); *Максім. А мы цябе не перагібаем. Мы цябе выпрамляем. Лявон. Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі шыю* («Лявоніха на арбіце»).

Для стварэння камізму выкарыстоўваецца таксама аксюмаран — стылістычны прыём наўмыснага спалучэння слоў з процілеглымі паняццямі, якія лагічна выключаюць адно аднаго: *Ліхтароў.* ⟨...⟩ *У нас жа гаспадарка, ды не абы-якая — узорна-запушчаная...* («Каб людзі не журыліся»).

Дзеля больш глыбокай характарыстыкі дзейных асоб, часцей адмоўных, А. Макаёнак ужывае прозвішчы-характарыстыкі. Яны яшчэ да самараскрыцця персанажаў праз словы і дзеянні падказваюць найбольш істотныя іх рысы: разумовыя «здольнасці» старшыні райвыканкома *Глуздакова* — ад простамоўнага *глузд* са зняважлівым адценнем; дасціпнасць, часам вострую, едкую на язык, дзеда *Цыбулькі* — ласкальна-памяншальнае ад *цыбуля*; імкненне *каваць* новае шчаслівае жыццё ў старшыні калгаса Кавальчука; дзейснасць натуры *Цесакова*, падначаленага Глуздакова,— ад *цясак* 'халодная зброя'; гаваркі характар прозвішчаў участковага міліцыянера *Дабрылы*, старшыні калгаса *Каравая* і бухгалтара *Ліхтарова*, начальніка райплана *Гудзеева, Ухватава, Клёпкіна, Скаромнага* і іншых.

Мова рэмарак, як правіла, стылістычна нейтральная, аднак зрэдку мае адценне кніжнасці і гутарковасці. Праз стылістычна маркіраваныя словы рэмарак выяўляюцца аўтарскія адносіны да персанажаў, іх паводзін, учынкаў, а таксама да абставін дзеяння. Рэмаркі часта — гумарыстычныя, іранічныя, саркастычныя: ⟨...⟩ *Тата не-не дый зіркне на маму, так зіркне,— ну, нібы ў яго ў кожным воку па лазеры. Нарэшце ўсё-такі ён стрываў* («Зацюканы апостал»); *А цяпер зазірнем у размяшчэнне рагатага бастыёна, пабачым, што дзеецца там* ⟨...⟩ («Лявоніха на арбіце»); *А пеўні гарланяць. Будзяць сонца. І сонейка ўзыходзіць. Яснае. Ласкавае. Усё навокал нібы намалявана яркімі-яркімі фарбамі. Нібы не сонца асвяціла ўсё, а папрацавалі японскія дэкаратары. Аж вочы хочацца зажмурыць* («Таблетку пад язык»).

А. Я. Макаёнак — аўтар адна- і шматактовых п'ес. Паводле жанравых вызначэнняў аўтара — гэта палітычная драма, сатырычная камедыя, сатырычная камедыя-памфлет, трагікамедыя, камедыя-рэпартаж, сентыментальны фельетон. Іх адметнасць у значнай меры залежыць і ад моўнай, эмацыянальнай афарбоўкі твораў.

*В. І. Рагаўцоў.*

## МАКЕДОНСКАЯ МОВА

Македонская мова — самая маладая са славянскіх літаратурных моў. У 1945 г. пасля ўнармавання часткі народных македонскіх гаворак яна стала афіцыйнай мовай Македоніі — адной з аўтаномных рэспублік (сталіца Скоп'е) былой Югаславіі. На македонскай мове гавораць каля 2 млн. чалавек.

Гісторыя македонскай мовы цесна звязана з балгарскай мовай. Значны ўплыў на яе развіццё мела сербска-харвацкая мова.

З сярэдзіны 9 ст. большая частка гістарычнай вобласці Македоніі ўваходзіла ў склад Першага, а з 13 ст.— Другога Балгарскага царстваў. Менавіта ў гэты перыяд у Македоніі распаўсюджваецца славянскае пісьменства і фарміруюцца асобныя рысы старажытнамакедонскіх гаворак. Горад Вохрыд, дзе ў свой час працаваў вучань Кірылы і Мяфодзія Клімент, становіцца адным з цэнтраў славянскай кніжнасці. Сербскі цар Стэфан Душан у сярэдзіне 14 ст. адваяваў гэту тэрыторыю ў Балгарыі, што абумовіла распаўсюджанне на тэрыторыі македонскіх гаворак сербскіх моўных рыс. У канцы 14 ст. македонцы, як і астатнія славяне Балканскага паўвострава, заняволены Асманскай імперыяй. Разам з балгарскім нацыянальным адраджэннем у 19 ст. пачала праяўляцца тэндэнцыя да фарміравання асобнай македонскай мовы. На тэрыторыі Македоніі з'яўляюцца рукапісы на жывой гутарковай мове, а з сярэдзіны стагоддзя — і першыя друкаваныя македонскія выданні. У гэты час меркавалася, што македонцы і балгары будуць мець адзіную літаратурную мову. У выніку Балканскіх войнаў (1912—13) гістарычная вобласць Македонія была падзелена паміж Сербіяй, Балгарыяй і Грэцыяй, што не садзейнічала захаванню македонскіх гаворак у межах балгарскай мовы. Асновай новай літаратурнай

нацыянальнай мовы з'явіліся дыялекты Вардарскай (сербскай) часткі Македоніі. На сёння існуе арыгінальная македонская літаратура. Значную ролю ў развіцці македонскай літаратурнай мовы адыгралі К. Рацына, К. Недзялкоўскі, В. Маркоўскі, А. Шопаў, С. Янеўскі, В. Малескі, Б. Канескі і іншыя пісьменнікі. У Скоп'е створаны універсітэт, дзейнічае Акадэмія навук і мастацтваў. Македонская мова адносіцца да ўсходняй (балгара-македонскай) падгрупы паўднёваславянскіх моў. Адсутнасць скланення, выкарыстанне прыназоўнікаў для перадачы значэнняў склонавых форм, страта інфінітыва, развіццё постпазіцыйнага артыкля і некаторыя іншыя моўныя рысы дазваляюць аднесці македонскую мову да балканскага моўнага саюзу. Македонская мова характарызуецца таксама наяўнасцю энклітычных форм асабовых займеннікаў (*писмо му* 'яго пісьмо'), складанай сістэмы дзеяслоўных часоў, пераказвальнага ладу, фіксаваным націскам (другі ў двухскладовых словах або трэці з канца склад), пераходам ъ у моцнай пазіцыі ў *о* (праславянскае **сърпъ* — македонскае 'сон'), насавога *о* ў *а* (праславянскае **rǫka* — македонскае *рака* 'рука'), стратай пачатковага *х* (*леб* 'хлеб'), наяўнасцю складовага *р* (*смрт* 'смерць'). У галіне сінтаксісу македонская мова вылучаецца больш строгім парадкам слоў у сказе, чым, напрыклад, у беларускай мове, і некаторымі асаблівасцямі, якія датычаць месца ў сказе кароткіх форм асабовых займеннікаў у ролі дапаўнення. Македонская мова падзяляецца на 3 дыялектныя групы — заходнюю, усходнюю, паўночную. У параўнанні з іншымі славянскімі мовамі ў македонскай менш фанем (31). Аснова македонскай графікі — кірыліца ў яе сербскім варыянце. Мяккія гукі *л'*, *н'* абазначаюцца літарамі љ, њ; звонкая шыпячая афрыката *дж* — џ а звонкая свісцячая афрыканта *дз* — ѕ. Літары ѓ, ќ абазначаюць спецыфічныя мяккія гукі, што ўзніклі на месцы былых злучэнняў **dj*, **tj*. Як і беларуская мова, македонская вылучаецца найменшай ступенню захавання праславянскага лексічнага фонду, а вельмі нязначны для літаратурнай мовы час існавання, недастатковая даследаванасць лексічнага матэрыялу адбіліся на адноснай нешматлікасці слоўніка мовы (менш за 100 тыс. слоў).

Некаторыя лінгвісты ставяць пад сумненне статус македонскай мовы, як мовы асобнай, самастойнай. Аднак яна імкліва развіваецца, паколькі актыўна падтрымліваецца грамадствам Македоніі, палітычна адасобленай ад сучасных Балгарыі і Югаславіі.

*Літ.:* Речник на македонскиот јазик со српскохрватски толкуваньа. Т. 1—3. Скопје, 1961—66; Толовски Д., Иллич-Свитыч В. М. Македонско-русский словарь: С приложением краткого грамматического справочника... М., 1963; Конески Б. Граматика на македонскиот литературен јазик. Скопје, 1967; Ковалёв Н. С. Македонский язык. Иваново, 1977. *А. Давыдоўскі.*

## МАКМІЛІН АРНОЛЬД БАРАТ

Англійскі славіст Арнольд Барат Макмілін (McMillin) нарадзіўся 21 чэрвеня 1941 г. ў г. Ньюкасл-апон-Тайн (Вялікабрытанія). Доктар славянскай філалогіі (1971). У 1964 г. скончыў Лонданскі універсітэт. У 1964—65 гг. вывучаў славістыку на філалагічным факультэце Маскоўскага універсітэта. З 1963 г. бакалаўр гуманітарных навук, у 1965—69 гг. асістэнт рускай мовы і літаратуры, з 1987 прафесар рускай мовы Школы славянскіх і ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Лонданскага універсітэта. У 1976—87 гг. загадчык аддзялення рускай філалогіі Ліверпульскага універсітэта (чытаў лекцыі па беларусістыцы ў параўнальным курсе славянскай філалогіі). У 1970—80-я гады — член камітэта Асацыяцыі славістаў Брытанскіх універсітэтаў, прадстаўнік Міжнароднага камітэта славістаў ад Вялікабрытаніі, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі па вывучэнні і распаўсюджанні славянскіх культур, з 1981 г. віцэ-прэзідэнт Англа-беларускага таварыства і іншых. Ён пастаянны ўдзельнік міжнародных кангрэсаў славістаў (Варшава, 1973; Заграб, 1978; Кіеў, 1983), міжнародных канферэнцый [(з беларускай тэматыкай) па лініі ЮНЕСКА: «Славянскія культуры і сусветны культурны прагрэс» (Мн., 1982), «Нярускія мовы і літаратуры ў Савецкім Саюзе» (Макмастэр, 1976), «Дастаеўскі і сусветная літаратура» (Мюнхен, 1981)], канферэнцый, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа (Лондан, 1982), З. Бядулі і А. Гаруна (Лондан, 1986), 500-годдзю Ф. Скарыны (Лондан, 1985), міжнародных сімпозіумаў «Гётэ і славянскі свет» (Дзюсельдорф, 1979), «Беларусь і Захад» (Мюнстэр, 1990) і іншых. Лектар многіх універсітэтаў Еўропы, Амерыкі, Бліжняга Усходу, рэдактар «The Journal of Byelorussian Studies» («Часопіса беларускіх даследаванняў», 1966—71), часопіса «Modern Languages Rewiew» («Агляд сучасных моў», 1979—87), член больш як 10 рэдакцый славістычных часопісаў і выданняў, супрацоўнік бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане. У манаграфіі «Лексіка беларускай літаратурнай мовы XIX стагоддзя» (Лондан, 1973), напісанай на аснове вывучэння абстрактнай лексікі друкаваных і рукапісных беларускіх тэкстаў, ён параўноўвае беларускае слова з рускімі, польскімі, украінскімі і чэшскімі эквівалентамі, адпаведнікамі ў беларускіх і рускіх дыялектах. Так вучоны выявіў і семантыку, і сферу ўжывання і распаўсюджання слова. У гэтай працы Макмілін выкарыстаў новы для беларускага мовазнаўства і вельмі эфектыўны статыстычны метад. У артыкулах «Стаўленне да беларускай мовы ў XIX ст. да з'яўлення прац Карскага» (1966), «Акадэмік Я. Ф. Карскі» (1967) Макмілін раскрыў стан беларускай мовы і беларускага мовазнаўства ў 19 ст. і ўклад у яго Я. Ф. Карскага. Абстрактную лексіку беларускай літаратурнай мовы 19 ст. Макмілін разгледзеў у артыкулах «Семантычныя граніцы слоў «каханне», «сімпатыя», «дружба» ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя» (1971), «Іншамоўныя элементы ў абстрактнай лексіцы В. І. Дуніна-Марцінкевіча» (1972). Выступаў Макмілін і ў абарону беларускай мовы ў артыкуле «Русіфікацыя і яе апаненты ў сучаснай беларускай літаратуры» (1989), у выступленнях ва універсітэтах Бона, Іерусаліма, Альберты, Цюрыха, на пасяджэннях Англа-беларускага таварыства. Ён адшукаў зборнік «Куранты» і сумесна з Ч. Дрэйджам апублікаваў артыкул «Куранты»: неапублікаваны рускі песеннік 1733 года» (1970) — важную крыніцу беларускіх слоў і элементаў беларускага паходжання. Аўтар аглядных артыкулаў і раздзелаў пра беларускую мову для энцыклапедычных даведнікаў і абагульняльных прац, даследавання «Гісторыя беларускай літаратуры ад яе вытокаў да сённяшніх дзён» (Гісен, 1977). У 1991—92 гг. Макмілін распачаў курс лекцый для аспірантаў «Уводзіны ў беларускую культуру: мова, літаратура, гісторыя».

*Тв.:* A guide to Foreign Language Courses and Dictionaries. London, 1977; The Slavic Literary Languages: Formation and Development. New Haven, 1980; The Development of the Byelorussian Literary Lexicon in the Nineteenth Century // The Formation of the Slovonic Literary Languages Columbus, 1985.

*Літ.:* Сакалоўскі У. Нястомны даследчык і папулярызатар // ЛіМ. 1991. 21 чэрв. *У. Л. Сакалоўскі.*

## МАЛАЖАЙ ГАЛІНА МІКАЛАЕЎНА

Беларускі мовазнавец Г. М. Малажай нарадзілася 15 сакавіка 1938 г. ў в. Кустын Брэсцкага раёна Брэсцкай вобласці ў сям'і настаўнікаў. Скончыла Брэсцкі педагагічны інстытут (1960). Настаўнічала ў Кобрынскім раёне. З 1963 г. ў Брэсцкім пед-інстытуце (з 1981 г. загадчыца кафедры беларускай мовы). Кандыдат філалагічных навук (1972), прафесар (1988).

Асноўныя кірункі яе навуковых зацікаўленняў — сучасная беларуская літаратурная мова, яе стылістыка, фразеалогія, лінгвістычны аналіз тэксту, культура мовы і маўлення, дыялекталогія, лексікаграфія. Абараніў-



шы ў 1971 г. кандыдацкую дысертацыю «Перыфраза ў беларускай літаратурнай мове (структурна-семантычная і стылістычная характарыстыка)», даследчыца ўпершыню ў славістыцы выдала слоўнік «Беларуская перыфраза» (1974), у якім змешчаны перыфразы беларускай мовы з твораў мастацкай літаратуры і публіцыстыкі, індывідуальныя аўтарскія і традыцыйныя апісальныя выразы. У артыкуле пра кожную перыфразу тлумачыцца значэнне выразу і даецца ілюстрацыя, падаюцца варыянтныя формы кампанентаў перыфраз.

У манаграфіі Г. М. Малажай «Сучасная беларуская мова. Перыфраза» (1980) вызначаецца сутнасць перыфразы як апісальнай адзінкі маўлення, паказаны асаблівасці яе структуры і асноўныя заканамернасці ўжывання ў літаратурнай мове, яе суадносіны са словам і фразеалагізмам, спосабы ўключэння ў кантэкст, даецца структурна-семантычная і стылістычная характарыстыка. Аўтар выяўляе суадносіны перыфраз з часцінамі мовы, аналізуе граматычную і семантычную структуру назоўнікавай і дзеяслоўнай перыфразы, дае семантычную характарыстыку лагічнай, метафарычнай і метанімічнай перыфразе. На прыкладах з мастацкай літаратуры паказваецца, што перыфраза — актыўны стылістычны сродак сучаснай беларускай мовы, які выкарыстоўваецца, каб паўней і глыбей раскрыць апісанне, выказаць адносіны да яго, падкрэсліваецца, што ацэначны, вобразна-экспрэсіўны характар перыфразы дазваляе ёй перадаваць узнёсласць і паэтычнасць мовы, робіць яе сродкам гумару і сатыры, а таксама эўфемічнай замены непажаданых слоў, змякчэння апісанняў і выказванняў.

У дапаможніку «Лінгвістычны аналіз тэксту: Заданні. Тэксты. Парады» (1982; 2 выд. 1992) Г. М. Малажай раскрывае сутнасць і змест лінгвістычнага аналізу як навучальнай дысцыпліны, апісвае яго метады і прыёмы, дае ўзоры лінгвістычнага вытлумачэння мастацкіх тэкстаў са школьнай праграмы. У дапаможніку «Пазакласная праца па беларускай мове» (1990, разам з С. Р. Рачэўскім) змешчаны матэрыялы для школьных лінгвістычных гурткоў роднай мовы, моўных свят, лінгвістычных канферэнцый, гульняў, вікгарын, якія паглыбляюць веды па роднай мове. Праца «Сучасная беларуская мова. Слова. Перыфраза. Фразеалагізм» (1992) прысвечана стылістыцы і культуры маўлення.

Г. М. Малажай даследуе праблемы выкладання роднай мовы ў ВНУ і школе. Яна аўтар і рэдактар вучэбных дапаможнікаў «Беларуская мова» (1986) для падрыхтоўчых аддзяленняў гуманітарных факультэтаў пед-інстытутаў і «Практыкум па беларускай мове» (1992) для негуманітарных факультэтаў; распрацавала сістэму лабараторных работ па сучаснай беларускай літаратурнай мове і выдала вучэбны дапаможнік для філолагаў «Лабараторныя працы па сучаснай беларускай мове» (1986). Яна з'яўляецца сааўтарам калектыўных дапаможнікаў: «Практыкум па беларускай мове» (1980; 2 выд. 1988), «Сучасная беларуская літаратурная мова: Зб. практыкаванняў» (1981), «Сучасная беларуская літаратурная мова: Практ. заняткі» (1987), бібліяграфічнага даведніка «Прафесар Ф. М. Янкоўскі» (Самарканд, 1984), а таксама вучэбнага дапаможніка для студэнтаў аддзяленняў рускай мовы і літаратуры філалагічных факультэтаў педінстытутаў Беларусі «Лінгвістычны аналіз тэксту» (разам з М. П. Дзямідавай, 1988). Пад яе кіраўніцтвам калектыў кафедры беларускай мовы Брэсцкага педінстытута сабраў і выдаў «Дыялектны слоўнік Брэстчыны» (1988), рыхтуецца тэма «Адлюстраванне народнай маралі ў ацэначных словах і фразеалагізмах Брэсцка-Пінскага Палесся» і інш.

*Тв.:* Структура субстантыўнай перыфразы // Лінгвістычны зборнік. Мн., 1968; Перыфраза ў творах // Маладосць. 1971. № 11; Эўфемізмы ў беларускай мастацкай літаратуры // Бел. мова і мовазнаўства. Мн., 1973. Вып. 1; Традыцыйныя апісальныя выразы беларускай літаратурнай мовы // Тамсама. Мн., 1974. Вып. 2; Слова жыве, слова праменіць // Лінгвістычны аналіз тэксту. Мн., 1975; Да этымалогіі некаторых ацэначных назваў асобы // Бел. мова і мовазнаўства. Мн., 1975. Вып. 3; Ацэначныя назвы асобы з гаворак Брэсцкай вобласці // Народная лексіка. Мн., 1977; Способы выражения сравнения в повестях и рассказах Л. Н. Толстого и их белорусских переводах (разам з М. П. Дзямідавай) // Язык и стиль произведений Л. Н. Толстого. Тула, 1979; Слова ў кантэксце // Слова, фразеалагізм і кантэкст. Мн., 1979; Лінгвістычны эксперымент як адзін з прыёмаў аналізу мовы мастацкага тэксту // Беларуская фразеалогія, лексікалогія: Зб. арт. Мн., 1980; Купалава слова ў кантэксце: (Спроба лінгвааналізу верша «Як я полем іду...») // Слова і фразеалагізм у кантэксце. Мн., 1982; Лінгвістычныя вечары (разам з М. І. Новік) // Нар. асвета. 1986. № 3; Міжпрадметныя сувязі з літаратурай пры вывучэнні лексікі і фразеалогіі // Бел. мова і літ. ў школе. 1988. № 6; 1989. № 1, 2; Міжпрадметныя сувязі з літаратурай пры вывучэнні словаўтварэння і марфалогіі // Тамсама. 1989. № 6; Выкарыстанне літаратурных твораў пры вывучэнні сінтаксісу і пунктуацыі // Тамсама. 1990. № 8; Светлы след Максіма Багдановіча ў гісторыі беларускай мовы // Тамсама, 1991. № 4. *І. У. Саламевіч.*

## МАНАЕНКАВА АЛЯКСАНДРА ФЯДОТАЎНА

А. Ф. Манаенкава нарадзілася 19 жніўня 1921 г. ў в. Сямёнаўка Такароўскага раёна Тамбоўскай вобласці. У 1944 г. скончыла факультэт рускай мовы і літаратуры Маскоўскага педагагічнага інстытута. Доктар філалагічных навук (1976). Працавала ў Чарнавіцкім дзяржаўным універсітэце на кафедры рускай мовы. З 1953 г. працуе ў БДУ на кафедры рускай мовы і агульнага мовазнаўства, а з 1978 г.— прафесар кафедры рускай мовы.

У шэрагу артыкулаў і манаграфіях «Лексіка рускіх гаворак Беларусі» (1973) і «Руска-беларускія моўныя адносіны» (1978) прааналізавала гаворкі старавераў Веткаўскага і Добрушскага раёнаў Гомельскай вобласці: ахарактарызавала фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці гэтых гаворак, іх лексічны склад, фанетычны, граматычны і лексічны ўплыў на іх навакольных беларускіх гаворак.

У 1989 г. выйшаў укладзены А. Ф. Манаенкавай «Слоўнік рускіх гаворак Беларусі». Ён змяшчае каля 5 тысяч слоў, зафіксаваных у дзесяці рускіх населеных пунктах Веткаўскага і Добрушскага раёнаў Гомельскай вобласці. Словы забяспечаны граматычнымі паметамі, вытлумачана і праілюстравана прыкладамі звязнага тэксту значэнне кожнага з іх.

*Тв.:* Говор русского села Леонтьево Ветковского района Гомельской области: (Фонетич. особенности) // Тр. по языкознанию (БГУ). Мн., 1958. Вып. 1; Белорусская лексика в говоре русского села Леонтьево Гомельской области // Уч. зап. Латвийского гос. ун-та. 1968. Т. 92; Морфологические особенности говора села Леонтьево Добрушского района Гомельской области // Лексікалогія і граматыка. Мн., 1969; К вопросу о диалектно-русско-белорусской лексической общности // Лінгвістычныя даследаванні. Мн., 1971; Паўднёвавялікаруска-беларускія сыходжанні і разыходжанні ў галіне кансанантызму // Бел. лінгвістыка. 1978. Вып. 12; О проницаемости синтаксического строя при контактировании близкородственных русских и белорусских говоров // Весн. БДУ. Сер. 4. 1979. № 1; Аб

некаторых спецыфічных з'явах руска-беларускіх моўных кантактаў у галіне лексікі і семантыкі // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Русские говоры в Белоруссии // Русский язык в Белоруссии. Мн., 1985.

*І. К. Германовіч.*

## МАРТЫНАЎ ВІКТАР УЛАДЗІМІРАВІЧ



Беларускі лінгвіст В. У. Мартынаў нарадзіўся 25 студзеня 1924 г. ў г. Адэса. Доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971). Занесены ў «Кнігу гонару» ЗША (1989). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1990). Стаў чалавекам года і атрымаў узнагароду 20 стагоддзя Брытанскага біяграфічнага цэнтра ў Кембрыджы (1993). У 1948 г. скончыў Адэскі універсітэт, у 1951 — аспірантуру па славістыцы пры Львоўскім універсітэце. У 1952—60 гг.— загадчык кафедры замежных моў Адэскага універсітэта, з 1960 г.— у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі (у 1962—90 гг.— загадчык аддзела агульнага і славянскага мовазнаўства).

В. У. Мартынаў апублікаваў больш за 250 артыкулаў і 12 манаграфій (3 у сааўтарстве). Вучоны даследуе тры актуальныя праблемы. Першая датычыць беларусістыкі. З 1969 г. Мартынаў — рэдактар і сааўтар шматтомнага «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1—7, 1978—91). Слоўнік адлюстроўвае моўныя сувязі беларускага народа з іншымі славянскімі і неславянскімі народамі на розных этапах гістарычнага развіцця. Матэрыялы трох кандыдацкіх дысертацый па дыялектнай лексікаграфіі, якія падрыхтаваны пад навуковым кіраўніцтвам В. У. Мартынава, абагульнены ў калектыўнай манаграфіі «Лексіка Палесся ў прасторы і часе» (1971). Два іншыя аўтарскія калектывы, якія ён узначальваў, падрыхтавалі манаграфіі па сучаснай беларускай літаратурнай мове: «Марфемная дыстрыбуцыя ў беларускай мове. Дзеяслоў» (1967) і «Словаўтваральная сістэма сучаснай беларускай мовы» (пра семантыка-словаўтваральны аналіз імён), а таксама новы тып слоўнікаў: «Канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя» і «Канкардансы беларускіх пісьменнікаў. Канкарданс Кузьмы Чорнага» (не выдадзены).

Другая праблема, славістычная,— высвятленне глотагенезу і этнагенезу славян. У манаграфіях «Славяна-германскае лексічнае ўзаемадзеянне найстаражытнейшай пары: (Да праблемы прарадзімы славян)» (1963) і «Мова ў прасторы і часе: Да праблемы глотагенеза славян» (1983), у шэрагу артыкулаў, у дакладах на Міжнародных з'ездах славістаў у Сафіі, Варшаве, Заграбе — Любляне, Кіеве, Браціславе даследчык выкарыстоўвае сучасныя структурна-тыпалагічныя метады ў кампаратывістыцы і багаты фактычны матэрыял славянскіх, германскіх, балтыйскіх, італійскіх і іншых моў. Глотагенез славян ён лічыць вынікам канвергентных (падобных) і дывергентных (якія разыходзяцца) працэсаў на прабалтыйскай (заходне-балтыйскай) моўнай тэрыторыі.

Трэці кірунак даследаванняў мае агульнамовазнаўчы і прыкладны характар. Абапіраючыся на ўзаемасувязі лінгвістыкі з кібернетыкай і семіётыкай, В. У. Мартынаў стварае варыянт інфармацыйнай мовы, якая магла б служыць «вылічэнню сэнсаў». У сваёй манаграфіі «Семіялагічныя асновы інфарматыкі» (1974) ён сцвярджае, што падобныя задачы можа выканаць універсальны семантычны код (УСК). Вучоны распрацоўвае новыя, усё больш дасканалыя варыянты УСК — у манаграфіі «Універсальны семантычны код: (Граматыка. Слоўнік. Тэксты)» (1977), яго практычнага прымянення і магчымасцей у галіне аўтаматызаванага кіравання і аўтаматыкі — у манаграфіі «Універсальны семантычны код: УСК-3» (1984), прымянення УСК для апісання натуральнай (тут рускай) мовы — у манаграфіі «Катэгорыі мовы» (1982).

В. У. Мартынаў — аўтар артыкулаў: «УСК — мова падачы ведаў і эўрыстычнага пошуку» (1980), «УСК-3: варыянт мовы прадстаўлення ведаў і эфектыўных вылічэнняў» (1983), «УСК-4 — асобага роду мова падачы і пераўтварэння ведаў» (1989) і іншых, што былі прачытаны як даклады на ўсесаюзных і міжнародных сімпозіумах і канферэнцыях.

*Тв.:* Лингвистические методы обоснования гипотезы висло-одрской прародины славян. Мн., 1963; Кибернетика. Семиотика. Лингвистика. Мн., 1966; Славянская и индоевропейская аккомодация. Мн., 1968; Праславянская и балто-славянская суффиксальная деривация имён. Мн., 1973; Балто-славяно-италийские изоглоссы: Лексич. синонимия. Мн., 1978; Становление праславянского языка по данным славяно-иноязычных контактов. Мн., 1982; Балто-славянские этимологии // Acta Baltico-Slavica. Wrocław, 1984. Т. 14; Функциональная грамматика и категории языка // Проблемы функциональной грамматики. М., 1985; Построение и реализация алгоритма планирования в исчислении, основанном на универсальном семантическом коде (у сааўт.) // Изв. АН СССР. Техн. кибернетика. 1985. № 5; Восточно-славянская и этимологическая лексикография (у сааўт.) // Славянская историческая и этимологическая лексикография. (1970—1980 гг.). М., 1986; Цели и принципы составления конкордансов нового типа // Вторая Всесоюзная конференция по созданию машинного фонда русского языка: Материалы конференции. М., 1988; Праславянский язык и его место в западно-балтийском диалектном континууме. Мн., 1988; Сакральный мир «Слова о полку Игореве» // Славянский и балканский фольклор. М., 1989; Мова і культура. Некаторыя разважанні // Бел. лінгвістыка. Мн., 1989. Вып. 36.

*Літ.:* Вярэніч В. Л. Віктар Уладзіміравіч Мартынаў: (Да 60-годдзя з дня нараджэння) // Бел. лінгвістыка. Мн., 1984. Вып. 25; Лучыц-Федарэц І. Чалавек XX стагоддзя // Навіны беларускай акадэміі. 19 лютага 1993.

*В. Л. Вярэніч.*

## МАРТЭЛЬ АНТУАН

Французскі славіст, выкладчык рускай і польскай моў і літаратур універсітэта ў Лілі (Францыя) Антуан Мартэль нарадзіўся 2 лютага 1899 г. Вучань вядомых французскіх славістаў А. Мее і А. Мазона, вучыўся ў Сарбоне і ў школе ўсходніх моў, атрымаў падрыхтоўку ў галіне рускай, польскай і балгарскай моў. Першай значнай працай Мартэля было даследаванне пра значэнне і ролю М. В. Ламаносава ў гісторыі рускай літаратурнай мовы. Працягам навуковых інтарэсаў вучонага з'явілася праца «Польская мова ў рускіх краінах, Украіне і Беларусі, 1569—1667» (1938). Заўчасная смерць (памёр Мартэль 12 кастрычніка 1931 г.) не дазволіла давесці працу да канца, пасля смерці аўтара яе падрыхтавалі да друку французскія славісты А. Мазон і Б. Унбегаўн. У гэтай працы даследчык спыняецца на гісторыі пісьменства славян, ролі лацінскай і стараславянскай моў у паасобных частках славянскага свету. Значную ўвагу ўдзяляе характарыстыцы агульнага гістарычнага лёсу беларусаў і ўкраінцаў у складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай і моўнай сітуацыі гэтай эпохі. Асноўны тэкст кнігі А. Мартэля складаецца з дзвюх частак. У першай, якая мае загаловак «Факты», разглядаецца мова канцылярый і судоў у Галіцыі, Валыні і на Падоллі, якія былі далучаны да Кароны перад 1569 годам, мова канцылярый Вялікага княства Літоўскага перад уніяй 1569 г. і пасля яе. Вялікую

ўвагу аўтар удзяляе законам у абарону беларуска-украінскай мовы, выпадкам парушэння гэтых законаў знаццю, заклікам на карысць латыні і паступоваму пранікненню польскай мовы. Падрабязна разглядаецца становішча царкоўнаславянскай мовы ў беларуска-ўкраінскага насельніцтва другой паловы 16 — пачатку 17 ст. Значнае месца адводзіць аўтар даследаванню беларуска-ўкраінскай літаратурна-пісьмовай мовы ў асноўных жанравастылявых сферах — перакладах Бібліі, катэхізісах, жыціях святых, вучыцельных евангеллях, пахавальных прамовах, палемічнай літаратуры, творах свецкага прызначэння.

Другая частка кнігі прысвечана аналізу культурных і гістарычных фактараў, якія садзейнічалі пранікненню польскай мовы на Беларусь і Украіну. Сярод іх значную ролю адыграла пашырэнне праз кнігі і школу пратэстанцкіх плыняў, каталіцкіх навучальных устаноў і манаскіх ордэнаў, а таксама ўвядзенне Люблінскай уніі і распаўсюджанне уніяцкіх вучылішчаў.

У «Заключэнні» Мартэль паказвае, што шырокае распаўсюджанне польскай мовы на Беларусі і Украіне было непазбежным вынікам тагачаснага культурна-ідэалагічнага клімату, які склаўся ў 17 ст. ва ўмовах вострай рэлігійнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Даследчык па-новаму асвятліў гісторыю славяна-візантыйскай цывілізацыі на Беларусі і Украіне, дзе сутыкаліся беларуска-ўкраінская, польская, лацінская і царкоўнаславянская культуры. Адметную якасць кнігі складае яе бібліяграфія: аўтар выкарыстаў усю вядомую ў яго час навуковую літаратуру па тэме, прывёў многа цытат з першакрыніц на старабеларускай, польскай і лацінскай мовах. Усё гэта робіць назіранні і вывады Мартэля абгрунтаванымі і пераканаўчымі. Выдадзеная больш за 50 гадоў назад, праца Мартэля і да сённяшняга дня застаецца найбольш поўным сацыялінгвістычным даследаваннем у беларускім гістарычным мовазнаўстве. *А. І. Жураўскі.*

## МАРФАЛАГІЧНЫЯ НОРМЫ

Марфалагічныя нормы — гэта гістарычна прынятыя ў моўным супольніцтве варыянты граматычных норм слова і мадэлі ўтварэння новых слоў. Замацаванне іх у пісьмовай і вуснай практыцы як узораў прадыктавана высокай ступенню пашыранасці і адлюстраваннем у іх самых агульных і істотных рыс жывога маўлення. Марфалагічная нарматыўнасць — абавязковая ўмова паспяховага развіцця мовы, таму што яна падтрымлівае яе нацыянальнае адзінства і забяспечвае пастаянства яе высокіх якасцей як сродку зносін паміж людзьмі. Найвышэйшага развіцця марфалагічныя нормы дасягаюць у літаратурнай мове, дзе яны набываюць характар абавязковасці, пасля чаго замацоўваюцца ў слоўніках.

Гісторыя станаўлення марфалагічных норм беларускай мовы сведчыць пра дынамічнасць, зменлівасць тых узораў граматыкі, якія прымаліся за эталон у розныя эпохі існавання мовы. Так, формы назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду множнага ліку ў давальным і месным склонах на *-ом, -ох*, рэкамендаваны «Беларускай граматыкай для школ» Б. Тарашкевіча як нарматыўныя: *Колькі новых малюнкаў, свежых матываў і таемных здарэнняў абяцаюць яны вачом і сэрцу падарожнага!* (Я. Колас); *Уладзік з апаскай азіраецца па бакох, прыслухоўваецца да кожнага шолаху* (З. Бядуля).

Цяпер яны ўспрымаюцца як архаічныя, на змену ім прыйшлі формы на *-ам, -ах*. Гэты прыклад паказвае, што паняцце марфалагічнай нормы для кожнага этапу развіцця мовы пастаяннае, а працэсы, якія падпадаюць пад нармаванне, рухомыя.

У розныя гістарычныя перыяды марфалагічныя нормы дзейнічаюць з рознай ступенню катэгарычнасці. На пачатку 1920-х гадоў, калі ў беларускай мове толькі пачаўся працэс удасканалення граматычнай сістэмы і выпрацоўкі функцыянальных стыляў, калі ступень суаднесенасці норм з жывой народнай мовай была даволі высокай, граматычныя абмежаванні дзейнічалі менш катэгарычна, чым цяпер, калі наша мова дасягнула літаратурнай сталасці.

Паколькі мова ўвасабляецца ў некалькіх функцыянальных стылях, то марфалагічныя нормы дазваляюць існаваць паралельным варыянтам, кожны з якіх характэрны для пэўнага стылю. Так, у размоўна-гутарковым стылі ўжываюцца складаныя формы дзеясловаў загаднага ладу тыпу *станьма, хавайма, чытайма*, а таксама формы абвеснага ладу тыпу *гледзімо, ямо*, якія не характэрны для пісьмова-кніжных стыляў.

На станаўленне марфалагічных норм могуць уплываць унутрымоўныя і сацыяльныя фактары. Пэўныя заканамернасці мовы як строгай сістэмы не дазваляюць некаторым суфіксам удзельнічаць у працэсе словаўтварэння па той прычыне, што спалучэнне марфем у складзе вытворнага слова абмежавана. Напрыклад, аснова, якая заканчваецца збегам зычных, не можа далучаць суфікс *-ск-*, а толькі яго ўскладненыя варыянты *-анск-, -оўск-, -еўск-*. Таму правамерна *сяброўскі, аршанскі*, а няправільна *сябрскі, оршскі*. Дзеянне сацыяльнага фактара праяўляецца тады, калі грамадскі выбар пераважае над нарматыўнымі ўказаннямі граматычных даведнікаў. Менавіта пад уплывам жывой маўленчай практыкі формы назоўнікаў роднага склону мужчынскага роду адзіночнага ліку *камунізму, сацыялізму, марксізму, ленінізму* абвешчаны «Беларускай граматыкай» як нарматыўныя. У адпаведнасці з «Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мн., 1959) яны як выключэнне ўжываліся з канчаткам *-а*.

Пастаянная тэндэнцыя да абнаўлення мовы, яе эвалюцыі прыводзіць да ўзнікнення некалькіх паралельных спосабаў марфалагічнага выражэння якога-небудзь граматычнага значэння, г. зн. варыянтаў нормы. На пэўным часавым адрэзку ненарматыўны варыянт, набываючы ўсё больш агульнае ўжыванне, становіцца нарматыўным дублетам. Так адбылося з назоўнікамі мужчынскага роду на *-іст* — *цымбаліст, арганіст, машыніст.* У 1930-я гады яны мелі значэнне факультатыўнай нормы побач з агульнапашыранымі варыянтамі прыметнікавага скланення: *цымбалісты, арганісты, машыністы*, а цяпер сталі адзінамагчымымі ў межах нормы. У той жа час шэраг граматычных варыянтаў не ўключаецца ў паняцце «марфалагічная норма», існуе толькі па-за яе межамі. У беларускай мове характэрныя марфалагічныя варыянты нормы выяўляюцца ў складзе знамянальных часцін мовы, у канкрэтным увасабленні асноўных граматычных катэгорый.

У сістэме скланення назоўнікаў наглядаецца ўжыванне форм з паралельнымі канчаткамі роднага склону адзіночнага ліку *(народу — народа, пераезду — пераезда)*; творнага склону адзіночнага ліку *(парай — параю, дарогай — дарогаю)*; меснага склону адзіночнага ліку *(у малаку — у малацэ)*; роднага склону множнага ліку *(прозвішч — прозвішчаў, кнігарань— кнігарняў)*; творнага склону множнага ліку *(вачамі — вачыма, касцямі — касцьмі)*. Яны знаходзяцца ў межах нормы і ўжываюцца ва ўсіх стылях мовы. Выбар таго ці іншага варыянта залежыць ад семантыкі слова *(на дварьі — на двары, таленту — таленту, з'езду — з'езда)*, ад яго стылістычнай афарбоўкі *(касцямі — касцьмі, хмарай — хмараю)*.

У размоўна-гутарковым стылі колькасць варыянтных склонавых форм большая найперш з-за ненарматыўных утварэнняў. Іх бытаванне часам абмяжоўваецца пэўным стылем. Такія варыянтныя пары, як, напрыклад, *конямі — коньмі, у вядры — у вядрэ* ўзніклі як вынік узаемаўплыву розных стылістычных сфер мовы.

У межах граматычнай катэгорыі роду марфалагічная варыянтнасць пашыраецца на нязначную ў колькасных адносінах групу неадушаўлёных назоўнікаў. Нормы дапускаюць раўнапраўнае ўжыванне такіх слоў, як *аблог — аблога, бярлог — бярлога, завал — завала, топаль — таполя, посуд — пасуда, каромысел — каромыс-*

ла: *Нарэшце гэткае і жыхару бярлогі, мядзведзю, збрыдае* (А. Куляшоў); *Мядзведзь ад разрухі палез у бярлог* (Я. Купала.); *Людзі ў хаце толькі чулі, як грымнулі вёдры і ўпаў каромысел* (У. Караткевіч); *Вольга прыгнулася, знімаючы з плячэй каромысла, каб схаваць свае вочы* (В. Адамчык). Нелітаратурныя варыянты роду часцей за ўсё маюць дыялектнае паходжанне: *відэлец — відэльца, чарэнь — чарэн, покут — покуць, шуфель — шуфля, гонта — гонт, рукаў — рукаво.* Паколькі родаварыянтныя назоўнікі не пазначаны ні семантычнымі, ні стылістычнымі адценнямі, то заўважаецца тэндэнцыя да іх паступовага скарачэння.

Марфалагічныя нормы кіруюць проціпастаўленнем назоўнікаў у межах катэгорыі ліку на аснове паняцця «адзінкавасць — множнасць»: *вецер — вятры, кола — колы.* Такое проціпастаўленне універсальнае, яно ахоплівае ўсе назоўнікі за выключэннем тых, што не маюць суадносных лікавых форм (рэчыўных, абстрактных, зборных). Выпадкі паралельных форм назоўнікаў адзіночнага і множнага ліку для называння прадмета вельмі рэдкія: *драбіны — драбіна, парэнчы — парэнча, нетры — нетра: Пакуль Сідар прынёс вады, а Агата драбіны, уся страха палала* (А. Чарнышэвіч); *Драбіна ледзь даставала да верху і стаяла крута* (І. Мележ); *Вось з якімі думкамі ішоў дзед Талаш праз лясныя нетры і пушчы* (Я. Колас); *Першацвет асыпаецца з голля дзікай яблынькі ў нетры лясной* (А. Зарыцкі). Побач з формамі множнага ліку назоўнікаў *карані, лісты, прамяні, камяні* у гутарковай мове існуюць формы, у якіх значэнне множнасці ўскладнена адценнем зборнасці: *карэнні, лісці, праменні, каменні. Ён старайся і нідзе не здолеў пусціць глыбока карэнні* (М. Стральцоў); *Калі сонца выпырснула першыя праменні між вяршынь Церамоскага лесу, з каміноў на куранёўскіх стрэхах віліся ціхія ранішнія дымочкі* (І. Мележ).

Граматычная катэгорыя спражэння дзеяслова прадстаўлена даволі строгай у нарматыўных адносінах сістэмай яго асабова-часавых форм. Варыянтнасць можа закранаць як асобныя формы, так і ўсю парадыгму. У межах літаратурнай нормы 'знаходзяцца варыянты з простай і ўскладненай суфіксам асновай: *аддзячыць — аддзякаваць, вірыць — віраваць, гасціць — гасцяваць, заклеймiць — заклеймаваць, хітрыць — хітраваць* і інш.: *Любіў гасціць у свайго дзядзькі, шляхціца з тых, чый побыт быў амаль сялянскі* (У. Караткевіч); *Якраз на той час у горадзе, дзе вучыўся Ян Янавіч, гасцяваў князь* (Б. Сачанка); *Вы з сумленнем ніколі ў жыцці не хітрылі* (А. Бачыла); *Як пазней высветлілася, нават сакратар пайднёвага славутага раёна толькі рапартаваў пераможна, а ўвогуле хітраваў* (І. Навуменка). Варыянтнасць інфінітыва адлюстравана і ў асабовых формах, якія ўтвараюцца адпаведна розным дзеяслоўным класам (*гашчу — гасцюю, госціць — гасцюе* і г. д.).

Варыянты дзеясловаў *вішчэць, блішчэць, мычэць, тырчэць* (да літаратурных *вішчаць, бліщчаць, мычаць, тырчаць*) узніклі на базе дыялектнага ўжывання і не адпавядаюць нарматыўным патрабаванням: *Працавалі, здаецца, палонныя, на невялікай адлегласці ад іх тырчэлі цёмныя постаці ў даўгіх шынялях, з вінтоўкамі ў руках.* (В. Быкаў); *Вочы блішчэлі, твар быў узнёсла-радасны, шалёны* (У. Караткевіч); *Парай, што рабіць — мычэць ці маўчаць, ці рогі крутыя ў крыві мачаць* (П. Панчанка).

Калі асноўны паказальнік катэгорыі стану — постфікс *-ся* ўдзельнічае ва ўтварэнні зваротных дзеясловаў ад незваротных і непераходных, то сваю граматычную функцыю ён можа не праяўляць. Тады ўзнікаюць тоесныя па лексічным значэнні і раўнапраўныя ва ўжыванні варыянты: *адсвечваць — адсвечвацца, бруіць — бруіцца, бялець — бялецца, злаваць — злавацца, мігцець — мігцецца, мінуць — мінуцца* і інш.: *Тады ў краі далёкія, як дні мінуць кароткія, сасоначкі высокія плывуць ракой-паводкаю* (Я. Купала); *Але ўсё гэта было звыклае і неўзабаве мінулася* (К. Чорны). Некаторыя з іх маюць размоўна-гутарковую афарбоўку: *дачакаць, належыцца, сноўдацца, спяшаць: Каля буданоў сюды-туды сноўдаюцца людскія постаці* (А. Кулакоўскі); *А ўсё жыццё неставала часу, усё спяшаць, спяшаць трэба было* (А. Жук). Зваротныя дзеясловы са значэннем руху або перамяшчэння ў прасторы тыпу *зайсціся, забегчыся* разглядаюцца як адступленне ад нормы.

Пры ўтварэнні дзеепрыметнікаў незалежнага стану прошлага часу да адной утваральнай асновы могуць далучацца сінанімічныя суфіксы *-ўш-(ш)* і *-л-*: *аброслы — абросшы, ахрыплы — ахрыпшы, апусцелы — апусцеўшы, адсырэлы — адсырэўшы; зарослы — заросшы: Брыду апусцелым полем* (Н. Тулупава); *Нечага карпаюцца па адным пры шырокіх апусцеўшых за восень ад травы межах* (К. Чорны). Аднак выбар таго ці іншага суфікса не заўсёды свабодны, існуюць прыметнікі ў адзіна магчымым марфемным афармленні: *прапаўшы, адпачыўшы, зляжалы, змарнелы.*

У выніку паралельнага словаўтварэння пры дапамозе суфіксаў *-т-* і *-н-* узнікаюць варыянты дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу: *апрануты — апранены, замкнуты — замкнёны, расцягнуты — расцягнены: Я забягу, апрануты па форме, да роднае дачкі, ў дзіцячы сад* (А. Куляшоў); *А на гэты раз ён быў апранены нават горай, як адыходзіў* (П. Броўка). Не маючы функцыянальнай спецыфікі, яны адрозніваюцца толькі частатой ужывання.

Марфалагічныя нормы вызначаюць выбар кароткай або поўнай формы якасных прыметнікаў. У беларускай мове больш прадуктыўныя поўныя формы, яны могуць выконваць ролю выказніка і азначэння. Кароткія формы прыметнікаў функцыянальна абмежаваны, у сказе яны выступаюць толькі як выказнікі. На ўтварэнне кароткіх форм прыметнікаў уплываюць характар канцавога зычнага асновы і яе лексічнае значэнне.

У працэсе развіцця службовыя словы таксама набылі функцыянальную або стылістычную спецыялізацыю. Адзнакі размоўнага стылю выявілі варыянты прыназоўнікаў *наўкруга, заместа, удоўжкі, пасярэдку*, часціцы *ажно, абы толькі* і інш.: *Кулеш пастроіў партызанаў у ланцужок, агледзеў наўкруга агню, ці ўсё забрана і даў каманду рухацца* (М. Лобан); *Марцін стаяў каля яго дробненькі, быдта дзіця* (В. Адамчык); *Дзеці, збіўшыся ўсе трое на ложку, крычалі, як хто можа, ажно пахрыплі* (У. Дамашэвіч).

На ўзроўні словаўтварэння марфалагічныя нормы рэгулююць адпаведнасць новастворaных слоў жывым заканамернасцям сучаснай словатворчасці. Марфолага-словаўтваральныя нормы дзейнічаюць выбарча, г. зн. словаўтваральны працэс мае рознага характару абмежаванні. Істотную ролю адыгрывае марфалагічная працягласць слова. Найбольшая колькасць марфем, адначасова магчымых у межах простага слова, паводле марфемнага слоўніка, роўная васьмі. Нормы спалучэння марфем з утваральнай асновай могуць мець семантычны змест. Напрыклад, прыстаўка са значэннем неаднаразовасці і інтэнсіўнасці дзеяння *папа-* не можа далучацца да іменных асноў. Выбар таго ці іншага словаўтваральнага сродку мае абмежаванні і лексічнага характару. Яны пачынаюць дзейнічаць пры магчымасці ўзнікнення амоніма да слова, якое ўжо існуе. Так, наяўнасць прыметніка *асобны* са значэннем 'абасоблены, ізаляваны, самастойны' выступае перашкодай для ўтварэння ад гэтай жа ўтваральнай асновы пры дапамозе суфікса *-н-* прыметніка са значэннем 'які ўласцівы пэўнай асобе'. У словаўтваральны працэс уключаецца іншы суфікс *-ов-*.

Марфалогія ў значнай ступені адчувае вынікі нармалізатарскай практыкі, таму няўстойлівасць нормы на марфалагічным узроўні адзначаецца менш, чым на лексічным.

*Літ.:* Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; Ляк-

суціна З. А. Да пытання нармалізацыі форм роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду // Вопросы литературы и языка. Мн.,1968; Ляпёшкін В. У. Асаблівасці уніфікацыі некаторых склонавых форм назоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове // Бел. лінгвістыка. Мн., 1982. Вып. 21; Наркевіч А. І. Пра варыянтнасць і нарматыўнасць граматычных форм у сістэме прыметнікаў // Культура мовы журналіста. Мн., 1984. Вып. 2.

*І. Р. Шкраба.*

## МАРФАЛОГІЯ

Марфалогія (грэч. morphē форма, logos вучэнне) — раздзел граматыкі, які вывучае склад слова, формы словазмянення, а таксама граматычныя катэгорыі і класы слоў (часціны мовы).

Слова існуе ў мове як сістэма форм. Уся сістэма форм аднаго слова — гэта адзінства, якое мае адно або некалькі цесна звязаных паміж сабой лексічных значэнняў. Такая сукупнасць форм аднаго слова і лічыцца лексемай. Розныя словаформы адной і той жа лексемы суіснуюць у мове як раўнапраўныя, аднак звычайна адна з форм, найбольш незалежная, прымаецца за пачатковую, або зыходную. Напрыклад, у радзе словаформ *вясн-а, вясн-ы, вясн-у* форма назоўнага склону *вясна* лічыцца зыходнай; па ёй называецца лексема, гэта словаформа рэгіструецца слоўнікамі.

Словаформа як моўная адзінка двухбаковая: яна мае план выражэння і план зместу. У плане выражэння — гэта гук або комплекс гукаў, якія абавязкова фанетычна арганізаваны; яна мае свой націск, а яе пачатак і канец — пэўныя характарыстыкі. Пры ўспрыняцці словаформы ў свядомасці чалавека ўзнікаюць тыя ці іншыя асацыяцыі, паняцці. Здольнасць перадаваць пэўнае паняцце і ёсць унутраны бок кожнай словаформы, яе змест.

План выражэння і план зместу ў моўных адзінках не знаходзяцца ў адносінах адна-адназначнай адпаведнасці. Ёсць выпадкі, калі дзве словаформы могуць поўнасцю супадаць у плане выражэння, аднак будуць адрозніваца ў плане зместу. Параўнайце: *дома* (у вывазе *падышоў да суседняга дома*) і *дома* (у вывазе *цэлы дзень быў дома*), дзе першая словаформа — назоўнік роднага склону, а другая — прыслоўе. Наадварот, словаформы *ў* (у вывазе *ў мяне*) і *ва* (у вывазе *ва ўсіх*) адрозніваюцца ў плане выражэння, але поўнасцю супадаюць у плане зместу: гэта два варыянты аднаго і таго ж прыназоўніка.

Унутраны бок кожнай словаформы, інакш — яе змест, мае складаную структуру, якая ўключае ў сябе элементы рознай ступені абагульненасці:

— граматычнае значэнне часціны мовы (гл. **Часціны мовы**), напрыклад значэнне прадмета — назоўнік, прыкметы — прыметнік, колькасці — лічэбнік, працэсу — дзеяслоў і г. д.;

— лексіка-граматычнае значэнне разраду слоў (сярод назоўнікаў — значэнне рэчыўнасці або зборнасці, канкрэтнасці або абстрактнасці і г. д.; сярод прыметнікаў — значэнне якаснасці або адноснасці; сярод дзеясловаў — значэнне пераходнасці або непераходнасці і г. д.);

— значэнне граматычнай катэгорыі, уласцівай дадзенай часціне мовы. Асобныя граматычныя катэгорыі могуць ахопліваць увесь аб'ём часціны мовы (лік і склон — у назоўніку; стан, трыванне і лад — у дзеяслове і г. д.), а могуць быць уласцівымі толькі пэўнай групе словаформ (напрыклад, час і асоба — толькі для дзеясловаў абвеснага ладу, кампаратыў — толькі для якасных прыметнікаў і адпаведных прыслоўяў ці прэдыкатываў і г. д.). Такім чынам, ёсць катэгорыі агульныя і катэгорыі прыватныя. Элементы значэння, звязаныя з агульнымі катэгорыямі, лічацца абавязковымі, а з прыватнымі — неабавязковымі.

Кожная граматычная катэгорыя ўключае не менш за два проціпастаўленыя граматычныя значэнні. Вось чаму, напрыклад, недастаткова сказаць, што словаформа *вясну* мае катэгарыяльныя значэнні ліку, роду і склону. Трэба абавязкова адзначыць, што гэта словаформа мае значэнне адзіночнага ліку, жаночага роду, вінавальнага склону.

Элементы значэння могуць быць рэгулярнымі або нерэгулярнымі. Рэгулярнымі будуць, напрыклад, значэнні роду ў прыметніках (практычна кожны прыметнік мае значэнні мужчынскага, жаночага або ніякага роду). Затое нельга назваць рэгулярнымі элементы значэння адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці ў назоўніка, таму што да такіх назоўнікаў, як *бура, маланка, сівізна, стомленасць* і падобных, наогул нельга нават дастасаваць паняцці адушаўлёнасці або неадушаўлёнасці.

Усе элементы значэння словаформы ўмоўна можна падзяліць на два класы: намінатыўныя і сінтаксічныя. Намінатыўныя элементы значэння выяўляюцца перш за ўсё ў самой словаформе, а сінтаксічныя — у спалучэнні гэтай словаформы з іншымі словаформамі. Так, элементы значэння адзіночнага або множнага ліку ці значэння пэўнага роду ў назоўнікаў — гэта значэнні намінатыўныя, а такія ж элементы ліку ці роду ў прыметнікаў — сінтаксічныя.

Такім чынам, марфалогія павінна вызначыць, па-першае, прынцыпы аб'яднання словаформ у лексему; па-другое, высветліць, якая частка значэння з'яўляецца граматычнай, а якая павінна быць аднесена да лексікалогіі; па-трэцяе, назваць граматычныя катэгорыі, уласцівыя дадзенаму слову, і вызначыць іх характар; нарэшце, устанавіць набор тых фармальных сродкаў, якія ўдзельнічаюць у стварэнні тых ці іншых словаформ гэтага слова. У школьнай практыцы задачай марфалагічнага аналізу з'яўляецца: вызначэнне часціны мовы, роду, ліку і склону, а таксама тыпу скланення, асновы і канчатка — для назоўнікаў; часу, ладу, трывання, асобы, тыпу спражэння, асновы і канчатка — для дзеясловаў і г. д.

Марфалогія цесна звязана з іншымі раздзеламі граматыкі: марфаналогіяй (гл. **Марфаналогія**), словаўтварэннем (гл. **Словаўтварэнне**) і асабліва сінтаксісам (гл. **Сінтаксіс**). Розныя формы слоў выражаюць розныя адносіны паміж словамі ў словазлучэнні ці ў сказе, а словазлучэнне і сказ вывучаюцца ў сінтаксісе.

Словаўтварэнне вылучылася з марфалогіі ў асобны раздзел навукі аб мове адносна нядаўна. Да гэтага часу пры аналізе часцін мовы ў марфалогіі яшчэ даюцца звесткі аб спосабах і тыпах словаўтварэння той ці іншай часціны мовы. Мяжа паміж словаўтварэннем і марфалогіяй праходзіць як лінія падзелу на абавязковыя і рэгулярныя значэнні з аднаго боку і неабавязковыя (і, як правіла, нерэгулярныя) — з другога. Так, значэнні памяншальнасці або ласкальнасці ўласцівы не ўсім назоўнікам, а таму гэтыя значэнні вывучаюцца не ў марфалогіі, а ў словаўтварэнні.

У 19 ст. вучэнне аб формах слоў называлася не марфалогіяй, а этымалогіяй (у сучасным мовазнаўстве тэрмін «этымалогія» мае зусім іншае значэнне).

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы: Марфалогія. Т. 1. Мн., 1962; Шуба П. П. Лекцыі па беларускай марфалогіі. Мн., 1975; Яго ж. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## МАРФАНАЛОГІЯ

Марфаналогія — галіна мовазнаўства, якая вывучае гукавыя чаргаванні, што выконваюць марфалагічную функцыю, фанемную структуру марфем, правілы спалучэння марфем у слове. Заснавальнікам і першым даследчыкам марфаналогіі з'яўляецца рускі вучоны М. С. Трубяцкой. Ён вызначыў марфаналогію як «даследаванне марфалагічнага выкарыстання фаналагічных сродкаў якой-небудзь мовы».

Як вядома, фанемы служаць будаўнічым матэрыялам для марфем, кожная марфема ад іншых адрозніваецца наборам фанем. Каб сцвярджаць, што перад намі розныя марфемы, недастаткова несупадзення фанем: патрэбна яшчэ і сэнсавае адрозненне. Параўнайце каранёвыя марфемы ў словах: *жар — шар, гара — зара, кот —*

*цот, мена — міна* і г. д. Першае і другое слова ў кожнай пары — розныя лексемы. У выпадках, калі замена *ж* на *ш*, *г* на *з*, *к* на *ц*, *е* на *і* не прыводзіць да змены сэнсу, утвараюцца дзве ці некалькі разнавіднасцей адной і той жа марфемы, напрыклад: *еж-а*, але *еш-це*, дзе замена *ж* на *ш* (пазіцыйнае чаргаванне) не прывяла да стварэння новай каранёвай марфемы (*еж-* і *еш-* успрымаюцца як адна і тая ж марфема). У словах *наг-а, наз'-е* замена *г* на *з'* (гістарычнае чаргаванне) таксама не стварыла новай марфемы. Тое ж самае наглядаецца пры змене *к* на *ц* у словаформах *рук-а — руц-э*, пры замене *е* на *і* ў словах *свет* і *світанне (Ці свет, ці світае, ці на зоры займае...)*. З прыведзеных прыкладаў відаць, што адна і тая ж марфема ў моўнай плыні можа быць прадстаўлена і адным і тым жа гукавым наборам, і розным. Інакш кажучы, кожная марфема (як абстрактная, абагульненая моўная адзінка) у працэсе маўлення знаходзіць сваё канкрэтнае ўвасабленне — той ці іншы морф. Адна і тая ж марфема можа ўвасабляцца, як было паказана на прыкладах, не толькі ў адным, але і ў некалькіх морфах: *еж-* і *еш-*, *наг-* і *наз'-*, *рук-* і *руц-*, *свет-* і *світ-*. У гэтых прыкладах кожная каранёвая марфема ўвасаблялася ў двух морфах. Гукавыя адрозненні паміж такімі морфамі тлумачацца чаргаваннем, і замена аднаго морфа другім у адным і тым жа гукавым «суседстве», у адной і той жа граматычнай форме немагчыма. Такія розныя морфы, якія рэпрэзентуюць адну марфему, называюцца аламорфамі. Ланцужок гукаў, якія чаргуюцца ў аламорфах пэўнай марфемы, называецца марфанемай. Так, у радзе аламорфаў *рук- — руч- — руц- (рука — ручны — руцэ)*, *рак- — рач- — рац- (ра́ка — рачны — рацэ)* і падобных рэгулярна паўтараецца ланцужок *к — ч — ц*; у радзе *нас'- — нос'- — наш- (насіць — носяць — нашу)*, *кас'- — кос'- — каш- (касіць — косяць — кашу)* — ланцужкі *с' — ш* і *а — о*. Гэтыя ланцужкі і ёсць марфанемы [к — ч — ц], [с' — ш], [а — о].

У мове існуюць і такія рады морфаў, што рэпрэзентуюць адну і тую ж марфему, але не з'яўляюцца аламорфамі. Так, адной марфемай (канчатак творнага склону назоўнікаў жаночага роду адзіночнага ліку) з'яўляюцца морфы *-ой* і *-ою (рукой — рукою, сцяной — сцяною)*. Прыведзеныя морфы — гэта варыянты, яны могуць свабодна замяняцца ў адным і тым жа слове, у адной і той жа словаформе.

Не менш важнай задачай марфаналагічных даследаванняў з'яўляецца вывучэнне фанемнай структуры марфем. Як вядома, у складзе слова адрозніваюцца марфемы каранёвыя і афіксальныя. Каранёвыя марфемы ў словах розных часцін мовы неаднолькавыя; тут лёгка заўважыць, што дзеяслоўны тып проціпастаўлены іменнаму. Маюць свае асаблівасці і каранёвыя марфемы службовых слоў.

Іменныя карані, як правіла, закрытыя (гэта значыць, што каранёвая марфема канчаецца зычнай фанемай). Асноўная маса беларускіх слоў мае ў корані ад трох да пяці фанем, пры гэтым самыя пашыраныя трохфанемныя карані будуюцца па мадэлі зычны (С) — галосны (V) — зычны (С): *дом, год, вал, сум* і г. д. Шмат слоў мае чатырохфанемную (мадэлі CCVC або CVCC: *стол, слых, борт, кант* і г. д.), а таксама пяціфанемную структуру (мадэлі CVCVC, радзей — CVCCC ці CCCVC: *барак, канал, пункт, ствол, страх)*.

Дзеяслоўныя каранёвыя марфемы могуць быць як закрытымі, так і адкрытымі (адкрытая каранёвая марфема канчаецца галоснай фанемай). Адкрытыя карані бываюць двухфанемныя (CV): *бі-ць, лі-ць, шы-ць*, трохфанемныя (CCV): *кры-ць, плы-ць, спе-ць*. Чатырох- і пяціфанемныя адкрытыя дзеяслоўныя карані сустракаюцца нячаста. Закрытыя дзеяслоўныя карані маюць тыя самыя мадэлі, што і іменныя: CVC — *дум-аць, раб-іць;* CCVC — *плав-аць, слух-аць;* CVCC — *мірг-аць, варт-аваць;* CVCVC — *гавар-ыць, гарадз-іць;* CVCCC — *вастр-ыць, гандл-яваць;* CCCVC — *страч-ыць, здрадз-іць* і г. д.

Каранёвыя марфемы службовых слоў нескладаныя, фанемная структура іх простая. Прыназоўнікі найчасцей пабудаваны па мадэлях С *(з, к)* або V *(у, а)*, а таксама VC *(аб, ад)*, CV *(да, на)*, CVC *(без, між)* або CCV *(пра, для)*. Чатырох- і пяціфанемных прыназоўнікаў вельмі мала. Найбольш частыя злучнікі будуюцца па мадэлях V *(і, а)*, CV *(ці, ды)*, VCV *(або, але)*.

Небагатыя па колькасці і разнастайнасці мадэлей і службовыя марфемы. Суфіксы звычайна аднафанемныя, двухфанемныя або трохфанемныя; канчаткі — аднафанемныя (V — *-а, -о, -е, -і, -у*) і двухфанемныя (VC — *-ам, -ом, -ем, -ім, -ай, -ой, -аў* і г. д.; CV — *-мі, -це*, напрыклад, у словах *дзець-мі, вучы-це*). Трохфанемных канчаткаў значна менш; яны, як правіла, маюць мадэль VCV: *-амі, -аю (-ajу)*.

Нарэшце, марфаналогія вывучае правілы і заканамернасці спалучэння марфем у слове. Кожнае слова — гэта адна або некалькі марфем. Ёсць словы, у якіх прадстаўлены дзве ці больш каранёвыя марфемы (*пяцьсот, Пецярбург*), каранёвая марфема ў спалучэнні з афіксальнымі (*падбяроз-авік-і*). На мяжы марфем узнікаюць марфемныя стыкі (марфемнае шво): кораня з коранем, прыстаўкі з коранем, кораня з суфіксам, кораня з канчаткам, суфікса з канчаткам і г. д. Стык марфем у слове нярэдка выяўляецца ў тым, што наглядаюцца такія гукавыя спалучэнні, якія не могуць сустракацца ўнутры марфемы. Так, у беларускай мове звычайна не бывае спалучэнняў аднолькавых ці блізкіх паводле месца і спосабу ўтварэння гукаў. Аднак на марфемным шве лёгка ўтвараюцца спалучэнні *аа (паабедаць), дд (аддаць), сс (рассакрэціць), нн (насценны), кк (мяккі)* і пад. Такія спалучэнні і з'яўляюцца своеасаблівымі «пагранічнымі сігналамі»: яны сведчаць, што перад намі— спалучэнне марфем.

На марфемным шве ў беларускай мове могуць адбывацца розныя гукавыя змены: чаргаванні гукаў, спрашчэнне гукавых спалучэнняў. Так, на стыку прыстаўкі і кораня можа ўзнікаць падоўжаны зычны (як вынік падваення): *без-заганны, рас-садзіць* і пад. Заўважаецца тэндэнцыя да спрашчэння: на месцы падоўжанага зычнага пачынае ўжывацца зычны звычайнай даўгаты, напрыклад, *расол* (з рас-сол), *расада* (з рас-сада), *імігрант* (з ім-мігрант). Ва ўсіх такіх выпадках траціцца і празрыстасць марфемнага складу слова.

Шматлікія чаргаванні адбываюцца на стыку кораня і суфікса (*луг — луж-ок, бібліятэк-а — бібліятэч-н-ы, сух-і — суш-ы-ць, воск — вашч-ы-ць, святло — свяц-і-ць, куп-і-ць — купл-я-ць, прад-у — прас-ці, мят-у — мес-ці* і г. д.). На марфемным шве наглядаюцца і спрашчэнні груп зычных. Спалучэнне *ннн (ванн-а — ванн-н-ы, манн-а — манн-н-ыя)* перадаецца падвоеным напісаннем *нн (ванны пакой, манныя крупы)*, і патроенай працягласці ў вымаўленні няма. Спалучэнні *сс, жс, шс* на стыку кораня і суфікса перадаюцца праз *с: беларускі (беларус-ск-і), таварыства (таварыш-ств-а), мноства (множ-ств-а)*, дзе *ж* — вынік чаргавання гука [*г*]: *мног-а — множ-ыць*). На стыку асновы і канчатка наглядаецца і т. зв. інтэрвакальнае падаўжэнне зычных як вынік асіміляцыі: *сталь — сталлю, плынь — плынню, збажына — збожжа, медзь— меддзю*.

Даследаванне ўсіх паказаных моўных з'яў і складае сутнасць марфаналогіі. Вылучэнне яе ў асобную галіну мовазнаўства дапамагае ўстанавіць сувязь паміж фанетыкай і граматыкай мовы.

*Літ.:* Трубецкой Н. С. Некоторые соображения относительно морфонологии: / Пер. с нем. Н. Н. Семенюк // Пражский лингвистический кружок. М., 1967; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## МАРФЕМА

Марфема (з грэч. morphḗ форма) — найменшая састаўная частка слова, якая мае ўласнае значэнне. Возьмем, для прыкладу, дзеяслоў *переналаджваць*. Яго можна раздзяліць на на-

ступныя часткі: *пера-на-ладж-ва-ць*. Чаму так, а не інакш? Чаму б не вылучыць часткі *пе-*, *-ран-*, *-ала-* і г. д.? Таму, што пры падзеле слова на марфемы трэба абавязкова захоўваць патрабаванне: вылучаць можна такую частку слова, якая з тым самым значэннем сустракаецца і ў іншых словах.

Сапраўды, частка *пера-* лёгка адшукваецца ў словах *пераворваць, перасаджваць, перакопваць* і інш., і ў кожным з гэтых дзеясловаў яна мае аднолькавае значэнне: 'зрабіць дзеянне яшчэ раз, паўторна, нанава'. Частка *на-* рэгулярна сустракаецца ў словах *наматаць, навастрыць, наладзіць* і інш., дзе паказвае на завяршэнне працэсу. Наступная частка — *-ладж-*. Яе мы знаходзім у дзеясловах *ладжу, ладзіць*, у назоўніку *наладка*, і выступае яна ў некалькіх варыянтах — *ладж, ладз, лад*. Асноўнае значэнне гэтай часткі — 'рабіць, ствараць; рабіць зноў прыгодным для карыстання'. Частка *-ва-* адзначаецца ў словах *пераконваць* (параўнайце *пераканаць*), *падбадзёрваць* (параўнайце *падбадзёрыць*) і пад. і з'яўляецца паказчыкам незакончанага трывання дзеясловаў. Нарэшце, апошняя частка *-ць*, якая таксама рэгулярна сустракаецца ў некалькіх варыянтах (*-ць, -ці, -чы*), паказвае, што перад намі — асобая форма дзеяслова, інфінітыў: *чыта-ць, цер-ці, бег-чы*.

З гэтага прыкладу відаць, што вылучаныя часткі слова — марфемы — у канкрэтных словах могуць быць прадстаўлены не толькі адзіным, але і некалькімі варыянтамі: *-ладж-, -ладз-* і *-лад-; -ць, -ці* і *-чы* і г. д. Такія канкрэтныя разнавіднасці адной і той марфемы называюцца морфамі. Такім чынам, морф — гэта непасрэдная рэалізацыя ў канкрэтным слове больш агульнага, больш абстрактнага моўнага паняцця — марфемы (такім жа чынам канкрэтныя гукі — фоны — выступаюць як увасабленне больш абстрактнага моўнага паняцця фанемы). Далейшае раздрабненне морфаў не можа прывесці да вылучэння частак, якія б захоўвалі ўласнае значэнне. Морфы можна раздзяліць толькі на фанемы — моўныя адзінкі, якія рэалізуюцца ў гуках мовы і з дапамогай якіх адзін морф атаясамліваецца з другім або адрозніваецца ад другога.

Як вядома, кожнае слова ў моўнай плыні выступае як адна словаформа ці як комплекс словаформ. Кожная словаформа складаецца з морфаў: у склад словаформы ўваходзіць хоць бы адзін морф (прыкладам такіх словаформ з'яўляюцца прыслоўі *там, тут* — слова прадстаўлена адной словаформай, якая складаецца з аднаго морфа; тое самае — займеннік *я*). Звычайна словаформы складаюцца з двух або трох морфаў *(рак-á, бераг-і; пры-нялс-у, бар-ав-ы)*, аднак у беларускай мове не рэдкасць і такія словаформы, у склад якіх уваходзіць шэсць, сем і болей морфаў *(па-на-вы-соў-ва-л-і, па-пера-буд-оў-ва-л-і-ся)*.

Разнавіднасці морфаў могуць быць двух тыпаў. Адны разнавіднасці не могуць узаемазамяняцца ў слове і залежаць выключна ад пазіцыі — перад ці пасля пэўнага класа моўных адзінак. Напрыклад, морф *-лад-* ужываецца толькі перад іншымі морфамі, якія пачынаюцца галосным непярэдняга рада або зычным, які не выклікае асіміляцыйнай мяккасці папярэдняга зычнага; морф *-ладз-* — перад морфам, які пачынаецца галоснымі пярэдняга рада або мяккім зычным, што выклікае асіміляцыйнае змякчэнне папярэдняга зычнага (*ладзіць, ладзьце*); морф *-ладж-* — перад канчаткам першай асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу, а таксама перад пэўнымі суфіксамі. Такія разнавіднасці морфаў называюцца аламорфамі.

Другія разнавіднасці морфаў, аднолькавых паводле значэння і пазіцыі ў слове, могуць свабодна ўзаемазамяняцца, напрыклад *-ой* і *-ою* ў групе канчаткаў творнага склону: *густ-ой — густ-ою*. Такія разнавіднасці морфаў прынята называць варыянтамі марфемы. (Вядома, нельга лічыць ні варыянтамі марфемы, ні аламорфамі такія разнавіднасці морфаў, якія цалкам залежаць ад пазіцыйных чаргаванняў галосных або зычных, параўнаем *пера-* і *пярэ-: перавыбары*, але *пярэбары; не-* і *ня-: невысокі*, але *някепскі; раз-* і *рас-: развесці*, але *рассыпаць* і г. д.)

У залежнасці ад ролі марфемы ў слове, ад характару яе значэння і яе месца ў слове марфемы падзяляюцца найперш на дзве групы: каранёвыя і афіксальныя. Каранёвыя марфемы (карані) — гэта абавязковая частка слова, носьбіт асноўнага элемента яго лексічнага значэння. Слоў без кораня не можа быць. Корань слова можа быць адзінай марфемай у слове (прыклады гл. вышэй). Разам з каранёвай марфемай у словаформе існуюць афіксальныя марфемы, або афіксы. Далейшая класіфікацыя афіксаў заснавана на іх месцы ў адносінах да кораня (перад коранем — прыстаўкі, або прэфіксы; пасля кораня — суфіксы і постфіксы, а таксама канчаткі, або флексіі; паміж каранёвымі марфемамі ў складаным слове — інтэрфікс, або злучальны афікс). Корань разам з іншымі афіксамі, не лічачы канчатка, утварае аснову слова.

Марфемы могуць быць свабоднымі або звязанымі. Свабодныя марфемы — гэта такія, якія матэрыяльна супадаюць з асновай хоць бы ў адным неслужбовым слове, а звязаныя — такія, якія ніколі не супадаюць з асновай, г. зн. сустракаюцца толькі ў спалучэнні з іншымі марфемамі асновы. Так, марфема *хмар-* — свабодная (яна сустракаецца не толькі ў дзеяслове *хмарыць*, у назоўніку *надхмар'е* і інш., але і ў назоўніку *хмара*), а марфема *-у-* ў дзеясловах *абуць, разуць*, у назоўніку *абутак* і інш.— звязаная, таму што яна не можа выступаць у мове без прыставак. У якасці свабодных могуць выступаць толькі каранёвыя марфемы. Звязаныя марфемы — гэта звычайна афіксы і адносна невялікая частка каранёвых марфем.

У залежнасці ад ролі ў складзе слова марфемы падзяляюцца на рэляцыйныя і дэрывацыйныя. Рэляцыйныя марфемы — гэта граматычныя афіксы, якія паказваюць на адносіны паміж словамі ў выказванні. Яркім прыкладам рэляцыйных марфем з'яўляюцца канчаткі. Дэрывацыйныя марфемы ўдакладняюць і канкрэтызуюць значэнне кораня. Гэта словаўтваральныя сродкі: суфіксы, прыстаўкі і г. д.

У залежнасці ад паходжання марфемы можна дзяліць на ўласныя і запазычаныя. У беларускай мове існуюць запазычаныя як каранёвыя, так і афіксальныя марфемы. Вядома, мова лягчэй засвойвае чужыя карані і ў значна меншай ступені — марфемы афіксальныя. Запазычаных канчаткаў наогул не існуе.

Вучэнне аб марфемах, іх разнавіднасцях і функцыяніраванні ў складзе слова вылучылася ў асобную галіну мовазнаўчай навукі — марфеміку.

Паняцце «марфема» ўвёў у мовазнаўства І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ ў 1870-х гг., і з таго часу гэта паняцце і тэрмін сталі ў лінгвістыцы агульнаўжывальнымі.

*Літ.:* Шакун Л. М. Словаўтварэнне. Мн., 1978; Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985. С. 214—216; Бардовіч А. М., Шакун Л. М. Марфемны слоўнік беларускай мовы. 2 выд. Мн., 1989; Бодуэн де Куртенэ И. А. Введение в языковедение: (Литографиров. курс). 5 изд. Пг., 1917; Яго ж. Избр. труды по общему языкознанию. М., 1963. Т. 2. С. 290—291. *П. П. Шуба.*

## МАРФЕМНЫ І СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫ АНАЛІЗ СЛОВА

Марфемны аналіз слова — гэта адзін з магчымых шляхоў аналізу складу слова, яго структуры. Пры марфемным аналізе ў слове вылучаюцца ўсе марфемы, якія ўваходзяць у яго склад. Абавязковая ўмова марфемнага аналізу — існаванне вылучанай марфемы не толькі ў гэтым слове, але і ў шэрагу слоў, пры гэтым значэнне вылучанай марфемы ў словах павінна захоўвацца (гл. **Марфема**).

Працэдура марфемнага аналізу звычайна такая: у той словаформе, якую неабходна разгледзець, спачатку вылучаецца канчатак (калі ён ёсць) і формаўтваральны афікс. Пасля гэтага вылучаюць корань слова, пад-

шукваючы да гэтага слова, прадстаўленага словаформай, якую аналізуюць, іншыя роднасныя словы, а затым — вылучаючца астатнія афіксы (прыстаўкі, суфіксы, інтэрфіксы, постфіксы). У школьнай практыцы склалася сістэма ўмоўных абазначэнняў пры марфемным аналізе: корань слова абазначаецца дужкай зверху (⌒), прыстаўка — прамой лініяй зверху з указаннем апошняй літары прыстаўкі (¬), суфікс — стрэшкай (^), канчатак — прамавугольнікам (□). Прамая лінія знізу паказвае на межы асновы слова. Нулявыя марфемы прынята абазначаць знакам ∅. Вось прыклад запісу марфемнага аналізу слоў *перабудова* і *вадазбор:*

перабудова, вадазбор∅.

Марфемны аналіз не паказвае, якім спосабам і ад якога канкрэтнага слова непасрэдна ўтварылася тое слова, якое нас цікавіць. На гэта пытанне можа адказаць іншы від аналізу — словаўтваральны. Парадак словаўтваральнага аналізу наступны: вызначаецца лексічнае значэнне слова; параўноўваем марфемны склад гэтага слова з тым роднасным аднакаранёвым словам, значэннем якога матывавана значэнне слова, што аналізуецца; выяўляем тую частку (ці часткі) слова, з дапамогай якой (ці якіх) аналізуемае слова ўтварылася. Напрыклад, слова *будаўнік* мае значэнне 'той, хто будуе'. Такім чынам, найбольш блізкім да яго будзе дзеяслоў *будаваць*; значэннем гэтага дзеяслова і матывуецца значэнне назоўніка *будаўнік*. Супастаўляючы марфемны склад асноў гэтых роднасных слоў *(будаў-нік-∅* і *будав-а-ць)*, мы выяўляем, што аснова слова, якое аналізуем, адрозніваецца ад асновы матывуючага слова марфемай *-нік-*. Мы можам сцвярджаць, што суфікс *-нік-* — гэта і ёсць той сродак, з дапамогай якога слова *будаўнік* утварылася ад дзеяслова *будаваць*; спосаб утварэння ў гэтым выпадку — суфіксальны. У школьнай практыцы так графічна абазначаецца словаўтваральны разбор: *будаўнік* ← *будав-а-ць*. (Падрабязней пра словаўтваральны аналіз гл. ў артыкуле **Словаўтварэнне**).

*Літ.:* Шакун Л. М. Словаўтварэнне. Мн., 1978; Бардовіч А. М., Шакун Л. М. Марфемны слоўнік беларускай мовы. 2 выд. Мн., 1989; Текучев А. В. Методика грамматического разбора. 3 изд. М., 1952; Кубрякова Е. С. Основы морфологического анализа: (На материале герм. языка). М., 1974.

*П. П. Шуба.*

## МАСТАЦКІ СТЫЛЬ

Мастацкі стыль выкарыстоўваецца ў эстэтычнай сферы зносін, абслугоўвае патрэбы духоўнага жыцця грамадства. Гэтым стылем пішуцца літаратурныя творы розных жанраў: апавяданні, аповесці, раманы, вершы, паэмы, п'есы. У маўленчай тканіне твора элементы мовы, выступаючы сродкам фарміравання мастацкіх вобразаў, набываюць дадатковае эстэтычнае значэнне, эмацыянальна ўздзейнічаюць на чытача, далучаюць яго да супольнай з пісьменнікам творчасці. Пры гэтым эстэтычная функцыя нібы наслойваецца на камунікатыўную, зліваецца з ёю. Мастацкія значэнні слова выяўляюцца ў кантэксце, найперш праз метафары, параўнанні, эпітэты і іншыя тропы.

*То мы ехалі сенажацямі, усыпанымі кветкамі, якія напярэсцігі* ***кланяліся*** *і заклікалі спыніцца і палюбавацца на іх. То траплялі ў маладыя беразнік, і ён, паварочваючыся перад намі,* ***выхваляўся*** *і паказваў усе свае ўборы — і белыя ў карунках* ***сукенкі,*** *і параспусканыя* ***каснікі*** *тонкага веццяў; то ён хаваў ад нас дарогу, падступаючы зусім блізка і блытаючы яе ў сваіх* ***нагах,*** *то раптам выпроствваў і рассцілаў яе перад намі, гасцінна запрашаючы ў мяккія цені. То мы* ***плылі,*** *як па моры, у бяскрайніх палях збажыны, у хвалях якой млела і паласкалася сонца* (Я. Скрыган. Паваротак ля сасны).

Дзякуючы майстэрскаму выкарыстанню моўных сродкаў, галоўным чынам метафар (у тэксце выдзелены), пісьменнік стварыў яскравы малюнак дарогі і краявідаў. Вобразнасць і выразнасць мовы большаюць ад таго, што неадушаўлёныя прадметы і з'явы надзяляюцца ўласцівасцямі і рысамі чалавека (увасабленне). Значную ролю ў дасягненні дынамізму апісання і актывізацыі чытацкага ўяўлення адыгрывае канцэнтрацыя дзеясловаў.

Эстэтычная функцыя слова рэалізуецца і ў шырэйшых кантэкстах, часам у кантэксце цэлага твора і нават усёй творчасці пісьменніка. Так, метафарычны загаловак рамана Я. Брыля «Птушкі і гнёзды» вытлумачваецца зместам твора: людзі, гвалтоўна адарваныя «ад родных ніў, ад роднай хаты», прагнуць вярнуцца на бацькаўшчыну, як птушкі ў свае гнёзды. У мастацкім стылі метафарычна ўжываецца і абстрактная лексіка. Алесь Руневіч, захоплены ў нямецкі палон, моцна сумуе па радзіме, імкнецца вырвацца з няволі. У паштовым бараку, дзе яго аднойчы прымусілі размяркоўваць пісьмы і паштоўкі, якія прыходзілі палонным, ён пакутліва думае: *Столькі пісьмаў! Столькі вестак з розных куткоў радзімы! Якая, божа мой, спакуса!.. Ну, хоць бы трохі пагрэцца каля нечай радасці!.. Брыдка? Некультурна? Вядома ж! Аднак жа гэта, здаецца, звыш маіх сіл. Тым больш, што ўсе яны адкрытыя, нават і тыя, што ў канвертах. А што ўжо гаварыць пра паштоўкі, якія самі паварочваюцца да цябе, не адрасам, а* ***спакусай!..*** Абстрактны назоўнік *спакуса* ў Брылёвым тэксце абазначае «змест паштоўкі (пісьма), з якім так хочацца пазнаёміцца Алесю Руневічу». Гэтае вобразна-эмацыянальнае ўжыванне адпавядае стану ўзрушанасці героя, добра перадае асаблівасці яго мастакоўскага мыслення, светаўспрымання.

Метафарызацыя (гл. **Метафарызацыя**) як спосаб адкрыцця мастацкіх значэнняў слова шырока выкарыстоўваецца ў паэзіі. У вершы Р. Барадуліна «Неруш» вобразна і экспрэсіўна выказана актуальная думка: майстры слова ўвесь час павінны ўзбагачаць і абнаўляць свой моўны запас з крыніц народнай мовы. *Неруш ранішні — роднае слова, // Мне шукаць цябе, покуль гляджу, // Пад зялёным крылом верасовак, // Пад крысом і спякоты й дажджу.*

Паэт падбірае слова, ставіць яго ў такі кантэкст, што яно набывае новы, эстэтычны змест. У вершы Р. Барадуліна слова «неруш» выйшла за межы традыцыйнага ўжывання. Яно абазначае «свежае, яшчэ не ўжыванае ў літаратуры народнае слова». Аднак у паэтычных радках не замерла першаснае лексічнае значэнне гэтага слова: «што-небудзь некранутае (няворaная зямля, дзікі лес, грыбное месца і падобнае)». Згадка пра нечапаную грыбную сям'ю падтрымліваецца тым, што названы месца і час, дзе і калі растуць грыбы, дзе іх трэба шукаць: *Пад зялёным крылом верасовак, // Пад крысом і спякоты й дажджу.* На суісnаванні ў гэтым вершы агульнамоўнага значэння і новага, індывідуальна-аўтарскага, якраз і грунтуецца вобразнасць, эмацыянальнасць і выразнасць паэтычнай мовы. Як адзначае акадэмік Дз. С. Ліхачоў, у мастацкім творы «над усімі сэнсамі асобных слоў у тэксце, над тэкстам лунае яшчэ нейкі звышсэнс, які і ператварае тэкст з простай знакавай сістэмы ў сістэму мастацкую» (Лихачёв Д. С. Письма о добром и прекрасном. М., 1985. С. 197—198).

Каб лепш зразумець спецыфіку мастацкай мовы, зробім супастаўленне — параўнаем апісанне дуба ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі і ў вершы.

*Дуб (Quercus), род вечназялёных і лістападных дрэў і кустоў сямейства букавых. ⟨...⟩ Найбольш пашыраны дуб звычайны, або летні (Q. robur), — дрэва вышынёй 30—40 (50) м і 80—100 (150) см у дыяметры. Лісце цэласнакрайняе, зубчастае або лопасцевае. Кветкі раздзельнаполыя, тычынкавыя ў доўгіх звіслых каташках, песцікавыя — адзіночныя. Плод — жолуд. Цвіце ў красавіку — маі, жалуды выспяваюць у верасні — кастрычніку. Жыве 400—500, іншы раз да 2000 гадоў. На Беларусі ахоўваецца больш за 40 дубоў-волатаў* (БелСЭ; т. 4).

Нягледзячы на тое, што ў энцыклапедыі даюцца дакладныя харак-

тарыстыкі і звесткі (вышыня дрэва, таўшчыня ствала, форма лісця і інш.), мы атрымліваем паняцце ўвогуле пра дуб, дубы, а не пра канкрэтнае дрэва. Словы тут, у навуковай мове, выражаюць паняцці. Для навуковага выкладу характэрна ўжыванне тэрміналагічнай лексікі, адсутнасць вобразнасці, эмацыянальнасці (у нашым прыкладзе выключэнне складае адзінае ацэначнае слова ў спалучэнні *дубоў-волатаў*).

Пісьменнік карыстаецца тымі словамі, якія ўжываюцца і ў іншых стылях літаратурнай мовы, але ён так іх арганізуе ў кантэксце, што словы выражаюць не паняцці (як у навуковай мове) і не элементарныя ўяўленні (як у гутарковай мове), а мастацкія вобразы. Эстэтычныя магчымасці мовы раскрываюцца дзякуючы мастацка-вобразнай маўленчай канкрэтызацыі, у выніку якой слова-паняцце пераводзіцца ў слова-вобраз. З верша Якуба Коласа «Дуб» прывядзем некалькі вузлавых строф:

*Сілачом стаіць // Дуб разложысты, // І здалёк відаць // Пышны верх яго. // Так размашыста // Параскіданы // Ва ўсе стораны // Лапы крэпкія. // Комель — слуп-скала, // Дыша сілаю, // А ўгару зірнеш — // Шапка валіцца. // Дуж ты, дуб стары, // Сын вякоў сівых! // Многа бур ты знёс // На вяку сваім! // Гэй ты, дуб стары, // Вартаўнік лугоў! // Аддае твой шум // Спевам-музыкай.*

У адпаведнасці з мастацкай задумай і эстэтычнай пазіцыяй паэт знаходзіць словы і выразы, якія дазваляюць стварыць вобраз магутнага дрэва. Гэта параўнанні (*сілачом стаіць, комель — слуп-скала*), эпітэты (*пышны верх, лапы крэпкія, дуб разложысты*), метафара (*дыша сілаю*), перыфразы (*сын вякоў старых, вартаўнік лугоў*) і іншыя моўныя сродкі.

Апісанне дуба мае самастойную эстэтычную вартасць. Але ў вершы прызначэнне «партрэта» дрэва больш істотнае. Дуб — не проста прадмет захаплення і любавання. Гэта перш за ўсё сімвал моцы і непахіснасці чалавека. Вось чаму паэту так важна зразумець, пра што шуміць і пяе «дуб стары», і, спасцігнуўшы сакрэты яго жыццёвай сілы, стойкасці «перад бураю», перадаць іх людзям: *Я падслухаю // Гэты спеў лістоў, // А з іх гутаркі // Песня зложыцца.*

Мова верша вобразная, эмацыянальная, мілагучная. Аднак трэба мець на ўвазе, што эстэтычную функцыю ў мастацкім творы выконваюць не толькі стылістычна афарбаваныя моўныя сродкі. Пад пяром выдатных майстроў слова любая лінгвістычная адзінка ў кантэксце мастацкага твора набывае эстэтычнае гучанне. Успомнім пачатак раздзела «Раніца ў нядзельку» з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» (*Дзень быў святы. Яшчэ ад рання // Блінцы пякліся на сняданне...*), дзе, уласна, няма вобразных слоў, але тым не менш радкі гучаць як высокапаэтычныя.

Мастацкі стыль займае цэнтральнае месца сярод іншых разнавіднасцей літаратурнай мовы. Ён распрацоўваецца і ўсталёўваецца найбольш свядомымі носьбітамі роднай мовы — пісьменнікамі і, як ніводзін іншы стыль, моцна трымаецца сваіх каранёў — жывой гаворкі народа і мовы фальклору. Майстры слова не абмяжоўваюцца тыповымі для мастацкай мовы сродкамі, звяртаюцца і да іншых стыляў, а таксама выкарыстоўваюць моўныя элементы нелітаратурнага ўжытку, падпарадкоўваючы іх ужыванне задачы мастацкага паказу. Нелітаратурныя моўныя адзінкі выконваюць у мастацкім творы стылістычную функцыю — выступаюць пераважна сродкам маўленчай характарыстыкі герояў. Прачытаем урывак з рамана І. Мележа «Людзі на балоце»: *Дзед колькі дзён таму, ловячы рыбу, вымак і прастудзіўся — учора пластам ляжаў на печы, а сёння — на табе, таксама падняўся.*

*— **Мо** паправіліся **ўжэ**? — кінуў Васіль, саскочыўшы з каня.*

*— **Эге, паправіўся!** — панура пакруціў галавой дзед.— **Тым часам, як дзіця, якое першы раз устало...***

*— **Дак** леглі б пайшлі.*

*— Улежыш тут! У **етакі** дзень! — Дзед правёў худой рукой пад пузам каня.— Наеўся **непагано!***

Ужыванне паасобных дыялектызмаў у мове персанажаў перадае каларыт мясцовай гаворкі, падкрэслівае сацыяльны, адукацыйны ўзровень герояў, памацняе стылістычны эфект жывога маўлення. Калі ў мове дзейных асоб дыялектызмы бываюць мастацка апраўданыя, то ў мове аўтарскай яны, як правіла, не ўжываюцца. Мастацкі твор у цэлым пішацца на літаратурнай мове. Гэта забяспечвае яму выхад да шырокага чытача, а значыць, дазваляе з большай паўнатой выконваць сваю эстэтычную функцыю. Калі б аўтар пісаў на роднай гаворцы (дыялекце), гэта было б значнай перашкодай на шляху твора да чытача, абмежавала б выяўленчыя магчымасці пісьменніка. Ніл Гілевіч, звяртаючыся да беларускага чытача, дасціпна ставіць пытанне: ці хацелі б яны чытаць літаратурны твор, скажам, Я. Брыля на той гаворцы, якая бытуе ў яго родных мясцінах. І прыводзіць узор такой гаворкі: *Ну, от, прышлосё ж тоё вяселё. Ну, пашылі той валян. Ну й чакаям маладого, от жа скоро маладыя прыедзя. А я, вядомо, без бацька жыла — сірата, як музыка заграла, дак мяне аж баке мае насіла. Адгулялі тоё вяселё, вяселё някепскаё зрабілі...*

Такая мова — пры ўсёй яе маляўнічасці і выразнасці — шмат прайграе перад мовай літаратурнай, якая валодае багаццем сродкаў мастацкага паказу, мае ўсталяваныя нормы і пашырана на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Праўда, у гісторыі літаратуры вядомы факты, калі мастацкі твор пішацца на дыялектнай мове. П'еса «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча напісана «пінчуцкай гаворкай», а ўжо ў 20 ст. «выпраўлена на беларускі лад» (Я. Янушкевіч), гэта значыць перададзена беларускай літаратурнай мовай.

Своеасабліва выкарыстоўваюцца ў мастацкім стылі граматычныя рэсурсы. Некалькі прыкладаў. Функцыя прыметнікаў — абазначаць прыкмету прадмета (а таксама быць азначэннем ці выказнікам) — неаднолькава рэалізуецца ў розных стылях. Калі ў навуковым тэксце прыметнікі (многія з іх — тэрміны) абазначаюць пераважна ўласцівасці прадметаў і з'яў, дык у мастацкім творы яны звычайна служаць для стварэння вобразаў, перадачы эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі выказвання. Параўноўваючы тэксты названых стыляў, звернем увагу на гэту асаблівасць прыметнікаў: *Самалёт — **цяжэйшы** за паветра **лятальны** апарат з рухавіком і нерухомымі крыламі, якія ўтвараюць **падымальную** сілу* (А. І. Болсун, Я. Н. Рапановіч. Слоўнік фізічных і астранамічных тэрмінаў); *З гэтага лета застаўся ў іх* [у Ганны і Васіля] *на ўсё жыццё ўспамін **неабсяжнай, бязмежнай, бясконцай** радасці. Шчасце гэтага лета было **самае вялікае** шчасце іх жыцця* (І. Мележ. Людзі на балоце).

Спецыфіка стылю выяўляецца і праз катэгорыю часу. Так, у мастацкай мове дзеяслоў-выказнік ужываецца пераважна ў форме прошлага часу, у навуковай — цяперашняга. Дасягнуць выразнасці, маляўнічасці апісання, наблізіць да чытача мінулыя падзеі, з'явы дапамагае ўжыванне цяперашняга часу са значэннем прошлага.

У мастацка-маўленчай тканіне літаратурнага твора шырока адлюстроўваецца варыянтнасць беларускай мовы (у навуковым і афіцыйна-справавым стылях яна не дапускаецца). Роля мастацкага стылю ў беларускай літаратурнай мове асабліва вялікая. З пэўных прычын (звужэнне сферы ўжывання беларускай мовы ў справаводстве, у навуковай літаратуры, у публіцыстыцы) мова мастацкай літаратуры з'яўляецца галоўнай захавальніцай і крыніцай абнаўлення літаратурнай мовы, яна і майстэрня, дзе куюцца новыя моўныя адзінкі, і адначасова лабараторыя, дзе апошнія апрабоўваюцца. Мастацкая мова, як узорная і аўтарытэтная, робіць дабратворны ўплыў на іншыя функцыянальныя стылі.

*Літ.:* Кожина М. Н. Стилистика русского языка. М., 1977; Барлас Л. Г. Русский язык. Стилистика. М., 1978; Цікоцкі М. Я. Сугучнасць слоў жывых... Мн., 1981; Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1992.

*А. А. Каўрус.*

## МАТЭМАТЫЧНАЯ ЛІНГВІСТЫКА

Матэматычная лінгвістыка — паняцце складанае і неадназначнае. Да гэтай галіны мовазнаўства адносяць шэраг разнастайных навуковых дысцыплін, некаторыя з якіх нават цяжка атаясамліваць з лінгвістыкай. Гэта датычыць перш за ўсё ўласна матэматычнай тэорыі фармальных граматык. На яе аснове кожная натуральная мова можа разглядацца як рэалізацыя некаторай абстрактнай сістэмы. Адсюль тэорыю фармальных граматык можна лічыць лінгвістыкай у той меры, як геаметрыю — навукай аб зямлі, паколькі апошняя, як вядома, узнікла з канкрэтных метадаў вымярэння зямлі. Тэорыя фармальных граматык знайшла сваё практычнае прымяненне ў працы алгарытмістаў і праграмістаў, гэта значыць у галіне інфарматыкі, і не знайшла ўжывання ў мовазнаўцаў, якія займаюцца праблемамі універсальнай лінгвістыкі.

Калі аднесці тэорыю фармальных граматык да ўласна матэматычных дысцыплін, застануцца два навуковыя цыклы матэматычнай лінгвістыкі, звязаныя з яе лінгвістычнымі аспектамі: інфарматыка для лінгвістыкі і лінгвістыка для інфарматыкі.

Інфарматыка для лінгвістыкі — гэта прымяненне статыстыкі, тэорыі кадзіравання, розных галін матэматыкі пры рашэнні ўласна лінгвістычных задач. Тут перш за ўсё трэба ўлічыць апрацоўку тэкстаў натуральнай мовы пры дапамозе электронна-вылічальнай тэхнікі. У Беларусі яны пачыналіся з прац А. В. Зубава, К. Ф. Лук'яненкава, Э. Н. Хацяшова і інш. Аўтаматычная апрацоўка тэкстаў дазваляе вылучыць найбольш частыя словаформы і граматычныя і словаўтваральныя марфемы (канчаткі, суфіксы, прэфіксы, словаспалучэнні і рознага тыпу кантэксты). Неабходнасць выкарыстання ЭВМ звязана тут з вялізным аб'ёмам працы, калі гаворка ідзе пра цэлыя мовы, функцыянальныя стылі літаратуры або пошук інфармацыі ў навуковых і навукова-тэхнічных тэкстах. Але задоўга да аўтаматычнай апрацоўкі тэкстаў ствараліся ўручную частотныя слоўнікі асобных моў, што складаліся з частотнага (словы размяшчаліся ў парадку ўбывання частаты) і алфавітна-частотнага (у алфавітным парадку з пазначанай частатой) спісаў слоў. Першым і пакуль што адзіным частотным слоўнікам беларускай мовы з'яўляецца складзены ўручную слоўнік Н. С. Мажэйка і А. Я. Супруна. Матэматычны каментарый да яго напісаў В. В. Нешытой, аўтар шэрага прац па статыстыцы тэксту. Лінгвастатыстыкай у Беларусі займаюцца таксама Б. А. Плотнікаў і Г. У. Ярмоленка. Апошні працуе ў такой рэдкай галіне, як лінгвастатыстычнае вызначэнне аўтарства.

Больш універсальным падыходам да апрацоўкі тэксту вызначаюцца так званыя канкардансы. Гэта слоўнікі, у склад якіх уваходзіць паказальнік слоў, слоўнікі — зваротны, частотны і камбінаторны, і тэкставыя ілюстрацыі. Паказальнік слоў — прамы алфавітны спіс слоў, зваротны слоўнік — алфавіт слоў, пачынаючы з іх канца. Камбінаторны слоўнік дэманструе магчымасці спалучальнасці слоў. Першы канкарданс, створаны ў былым СССР з дапамогай ЭВМ,— гэта канкарданс беларускай мовы 19 ст., складзены калектывам пад кіраўніцтвам В. У. Мартынава, якім была распрацавана адпаведная методыка. У рамках гэтай методыкі працуюць А. І. Дземчанка і Н. М. Сянкевіч-Шчасная.

Камбінаторыкай марфем у беларускай мове займаліся В. У. Мартынаў, П. П. Шуба і М. І. Ярмаш, аўтары складзенага ўручную слоўніка марфемнай дыстрыбуцыі дзеяслова, які ўключае табліцы прэфіксна-суфікснай камбінаторыкі з каранямі і індэкс дзеясловаў.

Лінгвістыка для інфарматыкі — цыкл даследаванняў у рамках штучнага інтэлекту, накіраваны на аўтаматычнае або аўтаматызаванае рашэнне задач, якія да гэтага часу рашаліся выключна чалавекам. Вядзецца работа па стварэнні варыянтаў кананізаванай мовы для прамых зносін чалавека і гэтых сістэм. Кананізаваная натуральная мова можа абмяжоўвацца пэўнай галіной навукі ці пэўнай навуковай праблемай. Можа яна адпавядаць і агульным моўным заканамернасцям — на аснове такой кананізаванай мовы дапускаецца семантычнае кадзіраванне, стварэнне версій універсальнага семантычнага кода. Яго трэцяя версія атрымала праграмны варыянт, а чацвёртая — матэматычнае прадстаўленне ў выглядзе некаторай алгебры. Гэта адгалінаванне штучнага інтэлекту цалкам адносіцца да беларускай школы, якая складвалася пад кіраўніцтвам Мартынава.

*Літ.:* Мартынаў В. У., Шуба П. П., Ярмаш М. І. Марфемная дыстрыбуцыя ў беларускай мове. Дзеяслоў. Мн., 1967; Гладкий А. В., Мельчук И. А. Элементы математической лингвистики. М., 1969; Ермоленко Г. В. Лингвистическая статистика. Алма-Ата, 1970; Мажэйка Н. С., Супрун А. Я. Частотны слоўнік беларускай мовы. Вып. 1—4. Мн., 1976—89; Зубов А. В. Обработка на ЕС ЭВМ текстов естественных языков. Мн., 1977; Плотников Б. А. Дистрибутивно-статистический анализ лексических значений. Мн., 1979; Лесохин М. М., Лукьяненков К. Ф., Пиотровский Р. Г. Введение в математическую лингвистику. Мн., 1982; Мартынов В. В. Универсальный семантический код: УСК-3. Мн., 1984; Демченко А. И., Мартынов В. В., Счастная Н. М. О необходимости конкордансов нового типа // Изв. АН СССР. Сер. лит. и языка. 1985. № 5; Арапов М. В. Квантитативная лингвистика. М., 1988; Мартынов В. В. УСК-4 — особого рода язык представления и преобразования знаний // Изв. АН СССР. Техн. кибернетика. 1989. № 5.

*В. У. Мартынаў.*

## МОВА І МАЎЛЕННЕ

Мова і маўленне — паняцці ўзаемазвязаныя ў тым сэнсе, што мова як сістэма знакаў выяўляецца ў працэсе маўленчай дзейнасці. Адсюль зразумела, што маўленне — гэта арганізаваны па законах мовы працэс выкарыстання моўных адзінак з мэтаю выражэння пэўнага зместу. Інакш кажучы, гэта — разнастайныя акты рэалізацыі камунікатыўных патрэб чалавека, асобных груп, калектываў, грамадства пры дапамозе слоў як знакаў моўнай сістэмы.

У тэорыі мовазнаўства адрозненне паняццяў «мова» і «маўленне» пачынаецца з часоў В. Гумбальта (1767—1835). Гэтыя паняцці былі канкрэтызаваны ў працах Х. Штайнталя, Х. Г. Габеленца, А. А. Патабні, І. А. Бадуэна дэ Куртэнэ і найбольш поўна акрэслены, дыферэнцыраваны ў даследаваннях Ф. дэ Сасюра і Л. У. Шчэрбы, прысвечаных тэорыі маўленчай дзейнасці. Сасюр адзначаў, што мова і маўленне «цесна звязаны паміж сабой і прадугледжваюць адно аднаго: мова неабходна, каб маўленне было зразумелым і тым самым было эфектыўным; маўленне ў сваю чаргу неабходна для таго, каб склалася мова; гістарычна факт маўлення заўсёды папярэднічае мове» (Соссюр Ф. де. Тр. по языкознанию. М., 1977. С. 57). Суадносіны паміж мовай, маўленнем і маўленчай дзейнасцю Сасюр дэманстраваў наступнай схемаю:

маўленчая дзейнасць — мова (сінхранія, дыяхранія); маўленне

Маўленчая дзейнасць, паводле Сасюра, аб'ядноўвае мову і маўленне, якія розняцца тым, што мова — з'ява сацыяльная, а маўленне — з'ява індывідуальная, рэальная, дыяхранічная, асістэмная.

Маўленчая дзейнасць асабліва цікавіла Л. У. Шчэрбу. Узамен глабальнага абазначэння ўсіх феноменаў мовы тэрмінам «маўленчая дзейнасць» ён уводзіць тэрмін «моўныя з'явы», а сярод іх вылучае маўленчую дзейнасць, моўную сістэму і моўны матэрыял. Выдзяленне гэтых аспектаў моўных з'яў дало магчымасць вычленіць працэсы маўлення, іх рэальны фундамент і матэрыяльныя вынікі гэтых працэсаў. Канцэпцыя

Шчэрбы адрозніваецца ад канцэпцыі Сасюра тым, што маўленне і маўленчая дзейнасць у ёй строга не супрацьпастаўлены: маўленчая дзейнасць, паводле Л. У. Шчэрбы,— гэта працэсы маўлення, працэсы гаварэння і слухання. У сучаснай псіхалінгвістыцы ёсць спробы размежаваць паняцці «маўленне» і «маўленчая дзейнасць», аднак пакуль што даводзіцца гаварыць пра іх сінанімічнасць.

Нягледзячы на даўнасць лінгвістычнага і псіхалінгвістычнага вырашэння антыноміі «мова — маўленне», слова «мова» выкарыстоўвалася і, на жаль, па-ранейшаму выкарыстоўваецца многімі спецыялістамі і неспецыялістамі настолькі шырока, што ствараецца ўражанне, быццам у яго няма агульнапрынятага значэння. Гэта асабліва характэрна для функцыяніравання названага тэрміна ў беларускай мове. Яго па традыцыі выкарыстоўваюць і са значэннем, уласцівым рускаму слову «язык», і са значэннем, якое замацавана за рускім словам «речь». Інакш кажучы, слова «мова» прадаўжае не па сваёй «віне» выконваць дзве функцыі, прыкметна выцясняючы тэрмін «маўленне» з яго выразным і канкрэтным зместам. Гэтаму ў многім пасадзейнічалі раней выдадзеныя слоўнікі. Так, у «Руска-беларускім слоўніку» (М., 1953) чытаем: «речь 1. (способность говорить) мова; 2. (язык) мова». Аналагічна і ў «Беларуска-рускім слоўніку» (Мн., 1962): «мова 1. (средство общения) язык; 4. (способность говорить) речь».

Зразумела, што наяўнасць толькі аднаго тэрміна для абазначэння двух паняццяў стварала і стварае нязручнасці пры вырашэнні пытанняў, звязаных з неабходнасцю аперыраваць абодвума паняццямі. А гэта неабходнасць стала асабліва відочнай цяпер, калі ўзрасла ўвага да многіх праблем агульнага мовазнаўства, стылістыкі і культуры маўлення, да распрацоўкі сукупнасці і сістэмы камунікатыўных якасцей маўлення, якія забяспечваюць мэтазгоднае і неабцяжаранае прымяненне мовы ў працэсе зносін. Перад лінгвістамі паўстала задача замацаваць за словам «маўленне» яго тэрміналагічнае значэнне, вывесці гэта значэнне за межы семантычнай структуры мнагазначнага слова «мова». Гэта знайшло сваё лагічнае адлюстраванне ў апошніх лексікаграфічных даведніках. Слова «маўленне» са значэннем 'вуснае і пісьмовае валоданне мовай; моўная дзейнасць' пададзена ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 3, 1979. С. 124). Яно заняло належнае месца ў «Беларуска-рускім слоўніку» (т. 1, 1988. С. 679). Аднак складальнікі «Руска-беларускага слоўніка» (т. 1—2, 1982) яго апусцілі, падаўшы да рускіх «язык» і «речь» адзіны адпаведнік — «мова». Гэты факт лішні раз сведчыць пра тое, што тэрмін «маўленне» ўсё яшчэ ў стадыі станаўлення, адваёўвае правы на самастойнасць. Але сёння ўжо фактычна няма сумнення ў тым, што менавіта маўленне маецца на ўвазе, калі мы гаворым пра такія камунікатыўныя якасці, як дакладнасць, лагічнасць і інш. Мова як знакавы механізм зносін не можа быць сама па сабе ні дакладнай, ні лагічнай, ні выразнай. Яна з'яўляецца скарбніцай, у якой вякамі назапашваліся сродкі, з дапамогай чаго наша думка, выказаная вусна ці пісьмова, становіцца дакладнай, лагічнай, выразнай.

Маўленне як спецыфічная форма рэалізацыі мовы можа праяўляцца ў вуснай і пісьмовай форме, успрымацца на слых або пры дапамозе органаў зроку (гл. **Вусная і пісьмовая мова**).

Маўленне як спосаб прымянення, выкарыстання моўных сродкаў неаднароднае, бо мова функцыяніруе не сама па сабе, а ў сувязі з патрэбамі зносін. Адсюль маўленне падзяляецца на літаратурнае і гутарковае (размоўнае). Літаратурнае маўленне не дае адхіленняў ад нормы ці дае іх вельмі мала. Яно адрозніваецца універсальнасцю ў сферы функцыяніравання: на яго аснове ствараюцца навуковыя, публіцыстычныя творы, на ім грунтуецца дзелавая пісьменнасць і інш. Літаратурнае маўленне — гэта кадыфікаваная разнавіднасць беларускай мовы, яно служыць сродкам рэалізацыі ўсяго комплексу ведаў, што назапасілі носьбіты мовы ў працэсе развіцця грамадства, і сведчыць пра дасягненні маўленчай культуры народа (Гл. Культура маўлення).

Гутарковае маўленне «...выткана з усялякіх змяненняў нормы. Можна сказаць, што ўсе змяненні мовы, якія пасля праяўляюцца і ў маналагічным маўленні, куюцца і назапашваюцца ў кузні гутарковага маўлення» (Шчэрба Л. В. Избранные работы по русскому языку. М., 1957. С. 116). Гутарковае маўленне характарызуецца персанальнасцю зносін (чалавек персанальна звяртаецца адзін да аднаго), сітуацыйнасцю зносін (апора на сітуацыю, выкарыстанне не толькі слоў і інтанацыі, але і мімікі, жэстаў (гл. **Мова жэстаў**). Гэта маўленне некадыфікаванае, аднак яго трэба лічыць унармаванай разнавіднасцю літаратурнай мовы. Яно мае свае спецыфічныя фанетычныя, лексіка-фразеалагічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці.

*Літ.:* Жинкин Н. И. Речь как проводник информации. М., 1982; Кубрякова Е. С. Номинативный аспект речевой деятельности. М., 1986; Лапаў Б. С. У абарону некаторых лінгвістычных тэрмінаў // Бел. мова. Мн., 1965; Міхневіч А. Функцыі мовы і маўлення і праблемы беларуска-рускага двухмоўя // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Норман Б. Ю. Синтаксис речевой деятельности. Мн., 1978; Щерба Л. В. Языковая система и речевая деятельность. Л., 1974. *Т. І. Тамашэвіч.*

## МАЦКЕВІЧ ЮЗЭФА ФЛАРЫЯНАЎНА



Беларускі мовазнавец Ю. Ф. Мацкевіч нарадзілася 27 ліпеня 1911 г. ў в. Ухлё Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Доктар філалагічных навук (1963). Член-карэспандэнт АН БССР (1969). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). У 1938 г. скончыла Мінскі педагагічны інстытут. Працавала настаўніцай. З 1945 г. навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН БССР (у 1950—1986 гг. загадчыца сектара дыялекталогіі).

Ю. Ф. Мацкевіч аўтар больш за 80 навуковых прац у галіне дыялекталогіі і гісторыі беларускай мовы, сучаснай беларускай літаратурнай мовы, лексікаграфіі, тапанімікі. Яе кніга «Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове» (1959) — першая ў беларускім мовазнаўстве спроба манаграфічнага апісання сістэмы дзеяслова з усёй складанасцю яго катэгорый і форм на базе дыялектных даных беларускіх гаворак другой паловы 40-х — 50-х гг. і мовы мастацкай літаратуры канца 19 ст.— 1950-х гадоў. У рабоце даецца падрабязны аналіз спосабаў утварэння граматычных катэгорый і форм спражэння, апісваюцца марфалагічныя варыянты асабовых флексій у беларускіх гаворках і іх адлюстраванне ў мове мастацкай літаратуры, аналізуюцца формы інфінітыва.

Ю. Ф. Мацкевіч рэдактар і сааўтар «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе парагранічча» (т. 1—5, 1979—86). Слоўнік уключае каля 40 тысяч слоўнікавых артыкулаў. У ім упершыню прадстаў-

лена лексіка буйной тэрытарыяльнай адзінкі — дыялектнай зоны, вызначанай на падставе этналінгвістычных даных. У слоўніку прыведзены паралелі з іншых славянскіх і неславянскіх моў, якія ўказваюць на шляхі пранікнення лексікі ў беларускія гаворкі.

Ю. Ф. Мацкевіч сааўтар кніг «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» (1957), «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія» (1957), «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі» (1962), «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69), «Мікратапанімія Беларусі» (1974). Прымала ўдзел у стварэнні «Русско-белорусского словаря» (1953). За ўдзел у комплексе прац па беларускай лінгвагеаграфіі ўдастоена Дзяржаўнай прэміі СССР 1971 года. Працуе над пяцітомным «Лексічным атласам беларускіх народных гаворак», які ствараецца ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі.

*Тв.:* Дыялектныя асаблівасці паўднёвабеларускіх гаворак // Матэрыялы першай дыялекталагічнай канферэнцыі БССР. Мн., 1950; Я. Ф. Карскі як дыялектолаг // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1951. № 4; Формы 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга і будучага простага часу ў беларускай мове // Тамсама. 1958. № 3; Формы інфінітыва ў беларускай мове // Тамсама. Сер. грамад. навук. 1958. № 4; Некаторыя формы дзеяслова па матэрыялах Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы // Тамсама. Мн., 1954. Вып. 1; Важнейшыя пытанні беларускай дыялекталогіі // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1954. Вып. 2; Некаторыя дыялектныя асаблівасці паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак // Тамсама. Мн., 1957. Вып. 3; Пытанні класіфікацыі сучасных беларускіх гаворак (з П. М. Гапановічам) // Тамсама. Мн., 1959. Вып. 6; Да характарыстыкі моўных асаблівасцей сярэднебеларускіх гаворак // Тамсама. Мн., 1961. Вып. 8; О глагольных основах в белорусских говорах (в связи с ударением) // Русское и славянское языкознание. М., 1972; Лексіка пчалярства // З народнага слоўніка. Мн., 1975; Аб семантычнай структуры некаторых дыялектных слоў // Народная лексіка. Мн., 1977; Аб лексічным атласе беларускіх народных гаворак // Бел. лінгвістыка. Мн., 1978. Вып. 13; З назіранняў над мовай Я. Купалы (разам з А. І. Грынавецкене) // Тамсама. Мн., 1987. Вып. 31; З лексікі Першага, або старога, Літоўскага статута 1529 г. // Жывое народнае слова. Мн., 1992. *М. Н. Крыўко.*

## МЕЛЕЖ ІВАН ПАЎЛАВІЧ



І. П. Мележ нарадзіўся 8 лютага 1921 г. ў в. Глінішча Хойніцкага раёна. Народны пісьменнік БССР (1972). У 1945 г. скончыў БДУ. Працаваў у часопісе «Полымя» (1945—47), у ЦК КП(б)Б (1950—51). З 1966 г. сакратар, у 1971—76 гг. намеснік старшыні праўлення СП БССР. З 1939 г. друкаваў вершы, з 1944 г.— апавяданні, першы зборнік «У завіруху» выйшаў у 1946 г. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Я. Коласа 1962 г. (за раман «Людзі на балоце»), Ленінскай прэміі 1972 г. (за раманы «Людзі на балоце», «Подых навальніцы»), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа 1976 г. (за кнігу літаратурна-крытычных артыкулаў, нарысаў і публіцыстычных выступленняў «Жыццёвыя клопаты»). Памёр 9 жніўня 1976 г.

Пісьменніцкі багаж І. Мележа шматлікі і разнастайны: апавяданні, аповесці, раманы, п'есы, нарысы, артыкулы, эсэ. Ужо ў ранніх творах («У завіруху», «Гарачы жнівень», «Дом пад сонцам» і інш.) адчуваецца, што аўтар валодае словам, паказвае жыццё ў яго шматграннасці і складанасці, умее тонка перадаць унутраны стан героя.

Першы раман «Мінскі напрамак» — гэта далейшае станаўленне майстэрства І. Мележа. Пісьменніцкі талент, добрае веданне і адчуванне мовы, жыцця далі магчымасць аўтару шматпланава паказаць Вялікую Айчынную вайну, вызваленчую бітву за Беларусь, тонка перадаць псіхалогію герояў, апісаць зраненую беларускую зямлю, гора народа.

Талент І. Мележа, яго моўнае майстэрства найбольш выразна выявіліся і канчаткова акрэсліліся ў «Палескай хроніцы» (раманы «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань»), якую даследчыкі слушна называюць галоўнай кнігай пісьменніка. Гэтая кніга — пра Палессе, пра блізкіх і дарагіх пісьменніку людзей, пра лёс сялянства ў 1920-я гады. Раманы трылогіі прыкметна выдзяляюцца сярод напісанага І. Мележам дагэтуль шырокім ужываннем дыялектызмаў. Пісьменнік знайшоў сваю манеру выкарыстання дыялектнай лексікі ў мастацкім творы: ён бярэ толькі тое, што можа быць зразумелым у кантэксце. Гэта пераважна фанетычныя або марфалагічныя дыялектызмы: *балото, жыто, позно, урадзіло; бувае, мабуць, забуў; еты; эге, кеб, е; Ганно, Хадосько, Яўхімко* і інш.:

*— **Мо** паправіліся **ўжэ**? — кінуў Васіль, саскочыўшы з каня.*

*— **Эге,** паправіўся! — панура пакруціў галавою дзед.— Тым часам, як дзіця, якое першы раз **устало...***

*— **Дак** леглі б пайшлі.*

*— Улежыш тут! У **етакі** дзень! — Дзед правёў рукой пад пузам каня.— Наеўся **непагано!*** («Людзі на балоце»)

Такія дыялектызмы ўжываюцца толькі ў мове герояў «Палескай хронікі», пісьменнік не ўключае іх у аўтарскую мову. Аднак і ў мове герояў, і ў аўтарскай сустракаюцца ўласна-лексічныя дыялектызмы (*галуза, пайроза, узболатак*), этнаграфічныя (*чуйка*), словаўтваральныя (*дамоўка, прыяць, памога, алехавы*). У некаторых выпадках побач з дыялектным словам у мове героя падаецца літаратурны адпаведнік у аўтарскай мове:

[Ганна] — *Нясмачная, можа, **картопля?..***

*— **Картопля,** як **картопля.***

*Ён* [Васіль] *сапраўды не заўважыў, смачная ці нясмачная была гэтая **бульба*** («Людзі на балоце»).

У мове твораў І. Мележа павышанай сэнсавай і эмацыянальнай вартасцю выдзяляюцца дзеясловы. Пісьменнік умела выкарыстоўвае багацце іх значэнняў і сэнсавых адценняў, сінанімiку: *Зноў убачыла Ганна Параску пад вечар. Параска **ішла** не адна. За ёй, акрамя Барыса, **кіравалі** з вуліцы да школы Дубадзел, Гайліс, Чарнаштан. Дубадзел, у кароткай паддзёўцы, у галіфэ, з ваеннай сумкай цераз плячо, **рэзаў** побач Парасні — наперадзе, лёгка і нібы весела. Гайліс **крочыў** у зашпіленым шынялі, вецер **ірваў** полы шыняля і, было відаць, **замінаў** ісці. Але Гайліс не зважаў на вецер, **ішоў** роўна, цярпліва. Барыс **ступаў** каля Гайліса. Ганна не дала яму ніякай увагі. Яна адзначыла: Чарнаштан **дыбаў** ззаду ўсіх* («Завеі, снежань»).

Пісьменнік асабліва насычае дзеясловамі тэкст, калі паказвае свайго героя ў дзеянні, у працы, што спрыяе раскрыццю характару персанажа. Выразныя ў гэтых адносінах разгорнутыя малюнкі на сенажаці з «Палескай хронікі». Пісьменнік паказвае Васіля на касьбе: у рамане «Людзі на балоце» ён, зусім маладзенькі, упершыню косіць са сталымі аднавяскоўцамі; у рамане «Подых навальніцы» — гэта ўжо спрактыкаваны, дужы касец. У абодвух апісаннях значнай насычанасцю дзеясловаў аўтар шырока, дакладна паказвае гэту нялёгкую сялянскую працу. Тут выяўляюцца істотныя рысы характару

Васіля — працавітасць, настойлівасць, упартасць, цярплівасць. У рамане «Подых навальніцы» з усёй колькасці паўназначных слоў у апісанні касьбы больш за чвэрць — дзеясловы. Пры гэтым пісьменнік своеасабліва арганізуе іх у тэксце: часта ўжывае дзеяслоў *ісці*, восем разоў ставіць побач тыя самыя двайныя дзеясловы, якія, як рэфрэн, падтрымліваюць апісанне дзеяння, узмацняюць яго, падкрэсліваюць яго інтэнсіўнасць, паказваюць напружанасць выканаўцы: *Васіль ішоў і ішоў; лажыў і лажыў* [траву]; *вёў і вёў касу; Ён адужваў кволасць, адужваў сябе, касіў, пакуль не знясіліўся да рэшты. Пакуль ужо не змог узняць касу. Тады павярнуўся, грузнучы па калена, распырскваючы гарачую ваду, ледзь цягнучы ногі, усё сваё здранцвелае цела, паваломся назад. Дашаргаў пасталамі да воза, паставіў касу і, не здымаючы з рукі мянташкі, падрэзаным дрэвам зваліўся на зямлю.*

Увага І. Мележа да дзеяслова — не толькі пры апісанні канкрэтнага фізічнага дзеяння, але і пры паказе ўнутранага стану героя (апісанне гора Ганны, калі памерла яе дачушка, у рамане «Подых навальніцы»): *Ганна не лямантавала, нават не плакала — седзячы на коленцах, ціха гойдаючыся, як лазіна ад ветру, горбілася, журылася...*

У падзеях, характарах, малюнках прыроды, дыялогах, аўтарскіх разважаннях мележаўскіх твораў — ва ўсім адчуваецца яго высокі ўзровень мастацкага пранікнення ў свет прадметаў, з'яў рэчаіснасці, псіхалогіі чалавека. Дасягаецца гэта ўдумлівым выкарыстаннем слова, разнастайных выяўленчых сродкаў, якія ў сукупнасці робяць мову мележаўскіх твораў непаўторна выразнай, выключна індывідуальнай. «І. Мележ умее з усяго багацця роднай мовы выбраць тое адзінае слова і паставіць яго ў адзіна магчымую сувязь з іншымі, каб падзейнічаць на ўяўленне і павярнуць чытача ў тым адзіным кірунку, які сфарміраваўся ў пісьменніка, калі ён вывучаў, пазнаваў рэчаіснасць і ўзнаўляў яе ў творы» (Ю р э в і ч У. Лёс чалавека — лёс народа // Юрэвіч У. Выбранае. Мн., 1987. С. 249).

Істотнае месца ў мележаўскім тэксце займае метафара. Арыгінальнае ўжыванне дзеяслова-метафары ў рамане «Мінскі напрамак» і ў «Палескай хроніцы» пры апісанні язды чалавека. Пісьменнік вельмі часта (і таму гэта становіцца адметнасцю яго моўнага стылю) паказвае язду па дарозе праз уяўны рух прадметаў, якія быццам *ідуць, бягуць, выпаўзаюць* 〈...〉 *насустрач: вербы і грэблі ішлі насустрач; выпаўзала поле; пабегла насустрач набярэжная; поле хутка сышло, падступіў сцяною лес; хаты адступілі, пачаў выбягаць лазняк; насустрач імчала шаша* і г. д. Каб выразна ўявіць дарогу, апісаную І. Мележам, адчуць чалавека на ёй і яго ўспрыняцце навакольнага асяроддзя, варта звярнуць увагу на адзін са шматлікіх урыўкаў: познім вечарам Башлыкоў едзе з Глінішчаў у Юравічы («Завеі, снежань», раздзел 5).

І. Мележ часта персаніфікуе, г. зн. як бы ажыўляе прадметы, з'явы, надае ім чалавечыя якасці, дзеянні: *дрэвы лістамі-далонямі гладзілі аўтаматчыкаў і танкістаў; балота чвякала, уздыхала; дарога бадзёрыць, весяліць; зямля падманвае; вецер цешыўся, лізаў твар; агеньчык прывітаў.* Пісьменнік арыгінальна метафарызуе Мінскую магістраль («Мінскі напрамак»), надзяляе яе разнастайнымі якасцямі і дзеяннямі жывой істоты і звяртаецца да яе, як да чалавека, прысвяціўшы ёй не адну старонку. Яго метафарычнае слова дакладна, выразна перадае пэўную з'яву, характарызуе асобу, прадмет: *сонца сцякала за лес; учапіліся маразы; прываліліі маразы; Сарока* ***забівала*** *сваёй гаворкай;* ***чарніцы*** *воч; журавель* ***задаволена, радасна*** *зарыпеў;* ***заспана*** *рыпелі вароты; чорны балотны* ***кісель; пяюць*** *палазы; радасць* ***выпарылася*** *з душы;* ***згарэла, скамянела*** *дружба* і інш.

Пісьменнік па-майстэрску стварае своеасаблівыя індывідуальныя метафары, значэнне якіх раскрываецца не ў словазлучэнні ці сказе, а ў больш шырокім кантэксце — абзацы, некалькіх абзацах, старонках. З дапамогай метафары шырокага кантэксту празаік апісвае людскія характары, жыццёвыя з'явы, найбольш важныя ў эмацыянальных, эстэтычных і іншых адносінах, звяртае на іх асаблівую ўвагу. Часта такую метафару аўтар стварае на аснове супастаўлення, параўнання. Такая мележаўская метафара мае істотнае значэнне пры раскрыцці ўнутранага стану героя. Апісваючы незвычайны настрой Ганны, калі яна едзе ў Нароўлю («Завеі, снежань»), пісьменнік ідзе ад рэальнага, канкрэтнага да абстрактнага, нават нечаканага: *Адчувалася, што завея ўсё разыходзіцца. Ганну не палохала завея, нават радавала яе, уздымала дзіўна весялосць. Нешта завейнае, мяцельнае білася ў Ганне.* Выкарыстанне ў папярэдніх сказах канкрэтнага назоўніка *завея* падрыхтавала абстрактную метафару *нешта завейнае, мяцельнае.* Часам метафарай выступае цэлы абзац. У рамане «Подых навальніцы» пісьменнік апісвае перажыванні Васіля: хоць і дабіўся ён шмат з таго, пра што марыў, але шчасця няма, бо так і не змог пакахаць жонку, па-ранейшаму кахае Ганну. Хмарылі яго шчасце і бясконцыя сходы пра калгасы: Васіль не хацеў страціць зямлю. Амаль на дзвюх старонках аўтар падрыхтоўвае незвычайную метафару — метафарычны тэкст: *Лез, пяўся, колькі змогі, зладжваў будыніну свайго шчасця, бервяно за бервяном, плашку за плашкай, паплецінку за паплецінкай. Складваў, стараўся, а будыніна крывілася, хілілася, гатова была ў любы момант разлезціся, разламацца; не было грунту, асновы добрай у будыніны, кволай, няпэўнай будыніны яго шчасця!*

Эпітэт у І. Мележа — выразны кампанент у апісаннях прыроды, прадметаў, з'яў рэчаіснасці, знешняй і ўнутранай характарыстыкі герояў. Вочы сваіх герояў ён характарызуе: *яркія, рухавыя; лагодныя чорныя; добрыя пяшчотныя; хітраватыя, добрыя; наіўна-ясныя і чыстыя; вясёлыя, пацяплелыя; халодна-шэрыя* і інш. Праз эпітэты пры характарыстыцы асобы пісьменнік паказвае і свае адносіны да героя. Так, у Ганны вочы *дзікавата-цікаўныя, непакорныя, вільготна-цёмныя, шаўкавіста-чорныя, смелыя, вішнёва-чорныя, цёмныя, глыбозныя, вішнёвыя*; у Карча — *вострыя тхарыныя вочкі* (не вочы!), *выцвілыя.* Яркія, выразныя эпітэты, метафары не толькі ў мастацкім тэксце, але і ў артыкулах, эсэ. З пакутаю, болем у сэрцы пісьменнік піша пра сустрэчу з роднымі мясцінамі неўзабаве пасля вызвалення: *Многа пабачыў я за вайну, многае адазвалася болем у сэрцы, але тое, што* ***апякло*** *мяне ў тыя дні, калі зноў убачыўся са* ***спаленай, пачарнелай*** *радзімай сваёй, не параўнаць ні з чым. ...Аб чым і кім ні стаў бы ўспамінаць, непазбежна* ***ступіш на гарачы, вечна пякучы прысак*** *той вялікай,* ***усеабдымнай навалы*** («Трохі згадак і думак»).

Мележаўскія метафарычныя эпітэты ўражваюць сваёй нечаканасцю, навізной бачання рэчаіснасці: *шкляная халадэча; аналогія палітычна нясмачная; жалезная спіна; учыгунелая спіна; вялікая халодная цішыня; вясёлы лёд; ганарлівая печ; скупая, ненадзейная зямля; скупыя няўдзячныя палі; думная ноч; прагавітыя бляск маланак; наравістыя дарогі* і інш.

Выразныя і запамінальныя азначэнні-прыдаткі, якія лаканічна, трапна характарызуюць прадметы, з'явы, жывёл, чалавека: *неадчэпа-спакуса, алешынкі-недароскі, вочкі-шыбы, рака-казка, лета-песня, шаптун-дожджык, нягода-вайна, нездаляка-конь, нахаба-воўк, Хоня-гарэза, Зайчык-штукар, саранча-людзі* і інш.

Трапнае параўнанне ў І. Мележа — дзейсны вобразны сродак. Параўнанні выражаюць адносіны аўтара да аб'екта апісання, канкрэтызуюць тое, што параўноўваецца, робяць яго больш відавочным, выразным. Прадметы, з'явы з навакольнага жыцця, жывёльны свет служаць пісьменніку вобразнай аналогіяй, формай, каб выказаць успрыняцце рэчаіснасці, стварыць характарыстыку, па-

казаць унутраны стан героя. Побач з прывычнымі народнымі параўнаннямі тыпу *стаіць, як вешка; сагнуўся, як груган; страшны, як лясун* пісьменнік стварае свае, нечаканыя для чытача, а таму асабліва выразныя: *Збоку* ***лязом*** *востра бліснула паска вады* («Мінскі напрамак»); ***Бы ў балотны след чорная тарфяная вада,*** *палезлі ў душу нядобрыя,* ⟨...⟩ *пякучыя ўспаміны;* [Васіль] *стаяў, вадзіў,* ***як лось, што трапіў у загародку,*** *сумотнымі вачыма* («Подых навальніцы»); [Хведзька] *...заўважыў, што на яго забыліся. А калі заўважыў —* ***як птушка, перад якой адчынілі дзверы,*** *нырнуў у сенцы* («Людзі на балоце»). І. Мележ параўноўвае-супастаўляе прадметы, з'явы, жывыя істоты і ў больш шырокім кантэксце, чым сказ (некалькі сказаў, абзац, абзацы). Так, у другім раздзеле рамана «Людзі на балоце» пісьменнік дае разгорнутае параўнанне, якое складаецца з дзвюх частак. У першай частцы (два абзацы) — лірычнае апісанне рабіны перад хатай Чарнушкаў. Пісьменнік надзяляе рабіну рысамі жывой істоты: *Дні за днямі цікаўна, але нясмела глядзела яна на вуліцу... Людзі яе не заўважалі, бо прывыклі да яе. Аднойчы рабіна неспадзявана заружавела, зазырчэла яркім, кідкім хараством, гарачым полымем агністых гронак.* Такое апісанне нечаканага перайначвання рабіны аўтар выкарыстаў, каб стварыць вобраз галоўнай гераіні. Другая частка параўнання — пра Ганну: *Як тая рабіна, цвіла ў гэтае лета Ганна. Яшчэ, здаецца, учора была гарэза, падлетак, а вось ужо, глядзіце — у самай добрай пары дзяўчына, у самай красе сваёй! Калі толькі вырасла!*

Сінтаксічныя канструкцыі ў І. Мележа таксама сродак мастацкай выразнасці. Значнае месца ў творах пісьменніка належыць дыялогу. У «Палескай хроніцы» пісьменнік праз дыялогі дасягнуў найвышэйшага майстэрства індывідуалізацыі мовы герояў. Яго дыялогі — гэта не толькі размова, але часта — эмацыянальны, напружаны слоўны паядынак асоб. Чытач адчувае, што гавораць людзі з розным характарам, тэмпераментам, сацыяльнай прыналежнасцю, настроем. Гэта дасягаецца рознымі моўнымі сродкамі. Тут і дыялектызмы ў мове мясцовых жыхароў, і адметнае словаўжыванне, і эмацыянальная лексіка ў рэпліках герояў. Так, у мове Ганны, дзяўчыны з характарам, няўрымслівай, разумнай, добрай і ў той жа час «калючай», даволі частыя прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, параўнанні, а таксама дасціпныя, з тонкай іроніяй словы. Васіль — маўчун, таму яго рэплікі скупыя, нешматслоўныя. Гаворка Сарокі насычана прымаўкамі і жартамі, яна гаворыць у рыфму. Андрэй Руды, вясковы грамацей і палітык, часта ўжывае *та-скаць* (так сказаць), гаворыць на своеасаблівым жаргоне: беларускія словы «перамешвае» рускімі з беларускім вымаўленнем (*следовацельно, ізвесція, ізлагае, сушчаство* і г. д.). Васілёва маці, вясковая беларуская жанчына, у патрэбны момант знаходзіць цёплае, ласкавае слова (*Васілёчак, каласочак... А мой жа ты дубочак, месячык ты мой залаценькі!...*). У залежнасці ад сітуацыі, настрою герояў у іх мове шмат слоў з эмацыянальнай афарбоўкай. У рэпліках з аўтарскім каментарыем пісьменнік умела ўжывае словы, што ўводзяць у тэкст простую мову ці суправаджаюць выказванні герояў. Гэта ў асноўным дзеясловы маўлення, часта ў спалучэнні з дзеепрыслоўямі, прыслоўямі, назоўнікамі з прыметнікамі, якія раскрываюць настрой героя, вызначаюць тэмп, тон, сілу гучання і падобнае.

Пісьменнік удала карыстаецца няўласна-простай мовай і ўнутраным маналогам як сродкам характарыстыкі герояў: Васіля, Ганны, Апейкі, Харчава, Халімона Глушака («Палеская хроніка»), Алеся і Ніны Лагуновічаў («Мінскі напрамак»). Аўтар дае чытачу магчымасць пранікнуць у самыя патаемныя думкі герояў, раскрыць іх унутраную сутнасць, складанасць характараў, сацыяльны змест.

І. Мележ — агульнапрызнаны майстар слова. У шматлікіх артыкулах, эсэ пісьменніка значная ўвага — роднай мове, слову. Яго хвалюе і стан роднай мовы ў Беларусі, і пытанні мастацкага перакладу, і своеасаблівасць стылю мастака. Пісьменнік даследуе творчасць К. Чорнага, паказвае станаўленне мовы і стылю гэтага пісьменніка (Пра творчасць К. Чорнага // Мележ І. Жыццёвыя клопаты. Мн., 1975). І. Мележ піша і пра пісьменніцкае майстэрства наогул: уменне ствараць дыялогі, індывідуалізаваць мову герояў і інш. (Майстэрства — гэта імкненне // Тамсама).

На пытанне балгарскага карэспандэнта газеты «Литературен фронт» (27.7.1972) «Вашы адносіны да мовы як сродку мастацкай прозы» І. Мележ адказвае: «Пішу на роднай мове з любоўю, з душэўным уздымам. Беларуская мова ласкавая, мілагучная, як песня. Я чую тое, што пішу, як музыку, з мелодыяй, з рытмам. Бывае, чытаю ўслых напісанае. Востра сачу, каб у мелодыі мовы твора не было фальшу...» (Жыццё, якое я звеДаў // Тамсама. С. 513). У гэтым і іншых выказваннях вялікага сына Беларусі — любоў да роднай мовы, надзвычайнае адчуванне яе прыгажосці, клопат пра яе чысціню.

*Літ.:* Шкраба Р. Ад праўды жыцця // Полымя. 1962. № 6; Абабурка М. В. Стылістычна абмежаваныя словы ў мове беларускай мастацкай літаратуры. Мн., 1981; Андраюк С. А. Іван Мележ // Стыль пісьменніка. Мн., 1974; Цікоцкі М. Я. Сугучнасць слоў жывых... Мн., 1981; Гніламёдаў У. Іван Мележ. Мн., 1984; Кавалёва М. Палескія дарогі ў мастацкім тэксце Івана Мележа // Моўныя адзінкі і кантэкст. Мн., 1992; Яе ж. Словадзеянне ў мастацкім тэксце Івана Мележа // Тамсама; Яе ж. Метафара і макракантэкст у «Палескай хроніцы» Івана Мележа // Тамсама. *М. Ц. Кавалева.*

## МЕТАДЫ ДАСЛЕДАВАННЯ МОВЫ

Кожная мова мае свае рысы, уласцівасці, заканамернасці, правілы, асаблівасці. Гэтыя якасці з'яўляюцца ўнутранымі, закадзіраванымі, ствараюць сутнасць і змест мовы, яе адзінак. Каб выявіць шматлікія якасныя характарыстыкі мовы, яе законы, правілы карыстання і будовы, даследчыкі выпрацоўваюць разнастайныя метады.

Зыходным метадам пазнання моўных фактаў служыць апісальны метад. Ён складаецца з такіх кампанентаў, як — назіранне, абагульненне, інтэрпрэтацыя і класіфікацыя моўных адзінак. Сутнасць назірання заключаецца ва ўменні даследчыка вылучаць найбольш тыповыя ўласцівасці моўнага аб'екта, каб з іх дапамогай ахарактарызаваць яго і адрозніць ад іншых. Абагульненне выкарыстоўваецца для аб'яднання ў пэўныя адзінствы моўных з'яў, адзінак, прыкмет і фармулявання на гэтай аснове адпаведных правіл, заканамернасцей, вызначэнняў, што робіцца, напрыклад, у падручніках, навуковых апісаннях мовы. Інтэрпрэтацыя моўных фактаў заключаецца ў іх тлумачэнні і вызначэнні месца ў сістэме мовы. Класіфікацыя асноўваецца на размеркаванні і ўпарадкаванні мноства фактаў па тых ці іншых прыкметах. Так, класіфікацыя беларускіх слоў па часцінах мовы грунтуецца на іх граматычных характарыстыках. Большасць школьных падручнікаў па лінгвістычных дысцыплінах напісана з дапамогаю апісальнага метаду.

Адным з найбольш пашыраных у мовазнаўстве з'яўляецца гістарычны метад, з дапамогай якога фіксуюцца шматлікія і разнастайныя змены ў мове за пэўны перыяд развіцця. У беларускай мове, напрыклад, на розных этапах зніклі рэдукаваныя гукі [ъ], [ь], парны лік назоўнікаў, спрасцілася сістэма дзеяслоўнага часу, але сфарміравалася граматычная катэгорыя трывання і г. д.

Параўнальны метад — эфектыўны спосаб выявіць унутраныя ўласцівасці і якасці прадмета, якія даследуюцца. Параўноўваюцца звычайна як факты ўнутры адной мовы, так і факты з розных (часцей за ўсё роднасных) моў. Напрыклад, звонкасць беларускага гука [б] выяўляецца толькі пры параўнанні

яго з глухім гукам [п], а адсутнасць у гэтага гука назальнасці фіксуецца пры параўнанні яго з назальным гукам [м] і г. д. Пры параўнанні граматычных асаблівасцей беларускага слова *сабака* і рускага *собака* выяўляецца, што яны адрозніваюцца родам, а аднолькавае па форме слова беларускае *рыбнік* і чэшскае *rybník* адрозніваюцца зместам: у беларускай мове яно значыць 'суп з рыбы', а ў чэшскай — 'сажалка'. Гістарычны і параўнальны метады могуць ужывацца сумесна, і ў выніку атрымліваецца адзіны параўнальна-гістарычны метад, які служыць галоўным навукова-даследчым інструментам у адной з найбольш развітых галін навукі пра мову — параўнальна-гістарычным мовазнаўстве.

Разгледжаныя метады вывучэння мовы з'яўляюцца традыцыйнымі і даўно паспяхова прымяняюцца ў мовазнаўстве. Сучасная лінгвістыка ўзбагацілася новымі метадамі і спосабамі даследавання мовы, частка якіх запазычана з іншых навуковых дысцыплін (матэматычная лінгвістыка і інш.) або выпрацавана ў нетрах самой навукі пра мову (дыстрыбутыўныя, псіхалінгвістычныя метады, метад кампанентнага аналізу і інш.). Дзякуючы таму, што выніні нашай моўнай дзейнасці прадстаўляюцца ў выглядзе пісьмовых тэкстаў, якія складаюцца з пэўных адзінак (літар, слоў, сказаў), робіцца магчымым выкарыстоўваць статыстычныя метады. Нават просты колькасны ўлік моўных адзінак у тэксце дазваляе зрабіць вывады пра такія істотныя ўласцівасці мовы, якія маюць практычнае значэнне. Так, устаноўлена, што ў большасці моў на 1000 самых частых слоў прыпадае каля 85 % усіх слоў, якія рэгулярна ўжываюцца ў маўленні. Таму, напрыклад, пры вывучэнні замежнай мовы веданне самых частотных слоў значна спрашчае працэс яе вывучэння. Выяўлена таксама, што ў любым звязным тэксце найбольшая колькасць новых слоў, якія не паўтараюцца, прыпадае на яго першыя старонкі. Гэтая статыстычная заканамернасць у арганізацыі слоўніка тэксту мае прыкладное значэнне. Бывае, што мы кідаем чытаць нейкі новы тэкст з-за мноства незнаёмых слоў на яго пачатку. Але калі набрацца цярпення і са слоўнікам засвоіць змест слоў на некалькіх першых старонках, то разуменне такога тэксту пойдзе значна лягчэй, бо незнаёмых слоў будзе трапляцца ўсё менш і менш.

У той час, як статыстычныя метады зручней прымяняць для даследавання пісьмовых тэкстаў, вуснае маўленне найчасцей вывучаюць з дапамогай псіхалінгвістычных метадаў, сутнасць якіх у апрацоўцы і аналізе моўных фактаў, атрыманых непасрэдна ад носьбітаў мовы. Напрыклад, для таго каб даследаваць, якімі сувязямі і з якімі словамі звязана лексічная адзінка *вясна*, яе прапануюць групе носьбітаў мовы ў якасці слова-стымула. Атрыманыя звесткі абагульняюцца, ствараецца асацыятыўнае поле слова ў выглядзе слоўнікавага артыкула, з якога відаць і частотныя словы, звязаныя са словам-стымулам, іх колькасць, граматычны і лексічны склад, характар сувязей (сінанімічныя, антанімічныя, словаўтваральныя, фразеалагічныя, тэматычныя і інш.), што існуюць паміж словамі, і г. д. З дапамогай псіхалінгвістычных метадаў фармулююцца правілы ўтварэння сказаў, мадэліруецца моўная дзейнасць чалавека, даследуюцца фанетычныя, граматычныя, семантычныя з'явы, асаблівасці дзіцячай мовы, вызначаецца характар сувязей моўных і псіхічных адзінак у свядомасці чалавека і інш.

Метад кампанентнага аналізу служыць для апісання моўных з'яў шляхам выкарыстання тых прыкмет, або кампанентаў, якія звычайна ўваходзяць у склад гэтых з'яў. Так, фанемы разглядаліся раней у выглядзе самых дробных кампанентаў мовы, а зараз яны часта апісваюцца праз набор яшчэ драбнейшых элементаў, якія называюцца дыферэнцыяльнымі прыкметамі. Напрыклад, фанема [б] уяўляецца як пучок дыферэнцыяльных прыкмет звонкасці, цвёрдасці, выбуховасці, неназальнасці. Падобныя прыкметы вылучаюцца праз параўнанне вывучаемай адзінкі з іншымі аднароднымі моўнымі адзінкамі (у дадзеным выпадку з фанемамі [п], [б], [в], [м]). Так з дапамогай граматычных і семантычных дыферэнцыяльных прыкмет апісваюцца марфалагічныя, лексічныя і сінтаксічныя адзінкі і катэгорыі мовы. Так, кожны з тэрмінаў роднасці *(бацька, маці, дзядзька, цётка, сын, дачка, пляменнік, пляменніца)* можа быць прадстаўлены як камбінацыя з наступных трох кампанентаў — ступень роднасці, пол, пакаленне. Пры абазначэнні блізкай ступені роднасці а, няблізкай а̄, мужчынскі пол в̄, жаночы в̄, старэйшае пакаленне с, малодшае с̄, прадстаўляем значэнне слова *бацька* камбінацыяй прыкмет авс, *маці* ав̄с, *сын* авс̄, *дачка* ав̄с̄, *дзядзька* а̄вс, *цётка* а̄в̄с, *пляменнік* а̄вс̄, *пляменніца* а̄в̄с̄, г. зн. кожнае з гэтых слоў адрозніваецца ад другога як мінімум якой-небудзь прыкметай.

Даволі шырокае прымяненне ў сучасным мовазнаўстве атрымалі таксама структурныя, трансфармацыйныя і дыстрыбутыўныя метады, метады мадэліравання, аперацыйнага аналізу і інш.

*Літ.:* Мейе А. Сравнительный метод в историческом языкознании. М., 1954; О точных методах исследования языка: (О так называемой «математ. лингвистике»). М., 1961; О принципах и методах лингвистического исследования. М., 1966; Апресян Ю. Д. Идеи и методы современной структурной лингвистики. М., 1966; Головин Б. Н. Язык и статистика. М., 1971; Общее языкознание: Методы лингвист. исследований. М., 1973; Методы изучения лексики. Мн., 1975; Степанов Ю. С. Методы и принципы современной лингвистики. М., 1975.

*Б. А. Плотнікаў.*

## МЕТАФАРЫЗАЦЫЯ

Метафарызацыя — пашырэнне семантычнага аб'ёму слова за кошт узнікнення ў яго пераносных значэнняў, заснаваных на падабенстве.

Пры метафарызацыі звычайна не ўзнікаюць новыя словы: тое самае слова служыць назвай двух ці некалькіх паняццяў. Такое слова з новым лексічным значэннем традыцыйна называюць метафарай.

Своеасаблівасць метафарызацыі — сумяшчэнне прамога і пераноснага значэнняў. Слова ў сваім асноўным, прамым значэнні мае пэўную агульнавядомую лексічную спалучальнасць. Трапіўшы ва ўмовы незвычайнай, нестандартнай лексічнай спалучальнасці, яно метафарызуецца. Так, дзеяслоў *усміхацца* ў прамым значэнні прывычна ўжываецца са словамі, што абазначаюць асобу: *усміхаецца сястра, бацька, маці, настаўніца, вучань, дзіця* і г. д. Калі ж спалучаем гэтае слова з незвычайным для яго суб'ектам (утваральнікам дзеяння) — *сонца*, значыць, ужываем дзеяслоў *усміхацца* ў метафарычным значэнні. Такое ўжыванне гэтага слова агульнавядомае, яно зафіксавана ў тлумачальным слоўніку. Гэта — агульнамоўная метафара. Такія метафары называюць яшчэ паэтычнымі, яны адзначаюцца тлумачальнымі слоўнікамі як вобразныя пераносныя значэнні слоў. Дзеяслоў *бегчы* звычайна адносіцца да слоў-суб'ектаў, якія абазначаюць жывую істоту: *бяжыць чалавек, дзіця, конь*... К. Кірэенка ў паэтычным радку спалучыў гэты дзеяслоў з назоўнікам-суб'ектам *маршчынка*, стварыўшы сваю (не адзначаную слоўнікамі), аўтарскую метафару, якая ўжываецца ў непаўторным, свежым значэнні: *Адно ля воч бяжыць маршчынка*... Такія аўтарскія метафары называюць таксама індывідуальна-стылістычнымі.

Некаторыя метафары страцілі вобразнасць, яны выконваюць чыста намінатыўную функцыю, з'яўляючыся адзінымі прамымі найменнямі прадметаў і з'яў. Іх называюць прывычнымі або сцёртымі, акамянелымі: ***ножка** стала, **рукаў** ракі, **корань** слова, гадзіннік **ідзе*** і інш.

Для метафарызацыі паміж словамі патрэбны пэўныя семантычныя адносіны, заснаваныя на якім-небудзь падабенстве. Метафара можа стварацца на падабенстве формы: *званочак*

(памяншальнае ад *званок*) і *званочак* 'кветка'; колеру: *залаты пярсцёнак* і *залаты ліст*; функцыі: *крыло птушкі* і *крыло самалёта* і інш. Часам пераносяцца назвы з прадметаў, з'яў, уласцівых чалавеку, на прадметы, з'явы нежывой прыроды і наадварот. Такія метафары ствараюцца пераважна на аснове ўражання, адчування, ацэнкі: *глухі чалавек* і *глухі куток; лагодны хлопчык* і *лагодны ветрык; спіць дзіця* і *спіць рака; цёплая вада* і *цёплая сустрэча.*

Метафарызуюцца словы з канкрэтна-лексічным значэннем: назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы, прыслоўі.

Сярод метафар-назоўнікаў параўнальна невялікая колькасць агульнавядомых слоў, якія абазначаюць жывёл, птушак і вобразна называюць, характарызуюць людзей. За аснову іх метафарызацыі ўзята адна прыкмета, якая пастаянна прыпісваецца пэўнай жывёле: *заяц* 'баязлівы чалавек', *мядзведзь* 'няўклюдны', *асёл* 'тупы, упарты', *баран* 'някемлівы', *сарока* 'занадта гаваркая' і г. д. Побач з назвамі жывёл у такой самай функцыі выкарыстоўваюцца і некаторыя неадушаўлёныя канкрэтныя назоўнікі: *пень, бервяно, дубіна, трапло* і г. д. Такая метафара-назоўнік у сказе выступае галоўным членам або дапаўненнем.

Даследчыкі ўстанавілі мінімальныя рамкі метафарызацыі. Для назоўніка найбольш характэрна словазлучэнне «метафарызаваны назоўнік у назоўным склоне з залежным назоўнікам у родным склоне». Агульнамоўныя метафары: ***гоман*** *ручаёў*, ***шэпт*** *травы*, ***мора*** *балот*, ***сеткі*** *маршчын*, ***ніткі*** *сівізны*; аўтарскія: ***пяшчотнасць*** *блакіту*, ***жарства*** *планет*, ***вуйначка*** *хмарак* (Я. Брыль); ***цвікі*** *іроніі*, ***дзверы*** *сэрца*, ***воспа*** *акопаў* (М. Танк); ***кантата*** *дрэў*, ***сталь*** *радка*, ***спеў*** *ракі*, ***кананада*** *прамоў* (К. Кірэенка).

Пры метафарызацыі дзеяслова характэрна прэдыкатыўнае словазлучэнне, якое складае граматычную аснову сказа: ***стогне*** *лес*, ***выкочваецца*** *сонца*, ***шэпча*** *лісце*, ***пайзе*** *туман*. Прыклады аўтарскай метафарызацыі: *Пуні* ***хмялеюць*** *ад сена...* (М. Танк); ***Хрыпела*** *зямля*, ***задыхаліся*** *зоры* (П. Панчанка); ***...пачалі стартаваць*** *стракозы* (Я. Брыль); *...хмары так і не сышлі — ...весела* ***растрасліся*** *паміж зялянінай узбоччаў дарогі* (Я. Брыль).

Для прыметніка ўласціва словазлучэнне «назоўнік з метафарызаваным залежным прыметнікам»: ***срэбныя*** *кроплі* (расы), ***залатое*** *лісце*, ***зялёны*** *хлопец*, ***самотны*** *лес*, ***кучаравы*** *дуб*, ***калючыя*** *словы*, ***саламяныя*** *валасы.* Аўтарская метафарызацыя: *Колькі песень на спатканні, // Слоў* ***агністых, маладых*** (П. Броўка); *Стагналі дрэвы* ***мнагарукія*** (П. Панчанка); *Усе мы чакаем друга, таго, што не здрадзіць, не кіне ў бядзе, зразумее цябе не толькі ў* ***празрыстым*** *шчасці* (Я. Брыль); *Ад пылу і сляпнёў* ***сляпая,*** *// Дарога ў возера нырае* (М. Танк).

Метафарызацыя слова пераважна адбываецца ў мікракантэксце — словазлучэнні ці сказе. У словазлучэнні: *Далямі навекі* ***завярбованы,*** *// Я спяшу пад колаў перастук...* (П. Панчанка); *Дарога ўвесь час* ***ашуквала*** (І. Мележ); *Спалены дом* ***забінтован*** *бярозкаю...* (М. Лужанін).

У сказе *...вялікі вадаём, з берага блакітныя лодкі п'юць, уткнуўшыся, ваду* (Я. Брыль) словы *п'юць ваду* ў межах словазлучэння не ствараюць метафары, яны метафарызуюцца толькі ў сказе, адносячыся да слова *лодкі*. Яшчэ прыклады: *Да рысы нейкай дойдзе лета // І жоўтай хусткаю ўзмахне* (К. Кірэенка). Словы *жоўтай хусткаю ўзмахне* метафарызуюцца ў сказе, спалучаючыся са словам *лета*. У сказе *...зноў дзьмухнуў скразнячок нейкай непрыемнай адчужанасці* (І. Шамякін) прэдыкатыўнае словазлучэнне *дзьмухнуў скразнячок* метафарызуецца, спалучаючыся са словам *адчужанасці.*

Толькі ў сказе метафарызуюцца прыслоўі, бо яны адносяцца да назоўніка праз дзеяслоў ці прыметнік: ***Прагна*** *аўтобус глытае спускі, узгоркі, адхоны* (М. Танк); *Мора аціхла за ноч,* ***спакойна і сыта*** *прыхлёбвае каля берага* (Я. Брыль); *Раніца сёння* ***лагодна*** *свежая...* (Я. Брыль).

Слова, ужытае ў мастацкім тэксце метафарычна, можа мець залежныя словы, звязаныя з ім сэнсава. Так, у сказе *Добрае жыта — густая, гарачая каша калосся, якую так і хочацца зачэрпнуць зверху лыжкай* (Я. Брыль) метафара *каша* рэалізуецца ў словазлучэнні *каша калосся*. З ёй сэнсава звязаны прывычныя для гэтага слова азначэнні *густая, гарачая* і разгорнутае азначэнне — даданы азначальны сказ *якую так і хочацца зачэрпнуць зверху лыжкай.* Усе гэтыя азначэнні разам са словам *каша* ствараюць метафарычны кантэкст, які больш вобразна, чым асобная метафара, перадае ўспрыняцце пісьменнікам навакольнага свету.

Мікракантэкст (словазлучэнне, сказ) не заўсёды дае магчымасць метафары раскрыць сваё значэнне — рэалізавацца. Метафара можа выступаць як канструктыўны кампанент больш значнага тэксту, як элемент мастацкай вобразнай мовы, падрыхтаваны папярэднім (ці наступным), больш шырокім кантэкстам. Такая метафара зразумелая толькі ў макракантэксце. Спосабы такой метафарызацыі бываюць розныя: найбольш часта пісьменнікі ствараюць метафару на аснове параўнання. У аповесці Я. Брыля «Ніжнія Байдуны» чытаем: *Плёхаўскі кавалерчык. Цыбаты, з малою галоўкай, зверху да пояса рухавы,* ***як кенгуру,*** *а ногі значна цяжэйшыя, сяды-тады як анямелыя.* Праз некалькі радкоў з'яўляецца ўжо метафара *кенгуру: А навокал сабралася моладзь. Свае, заўсёды спадзеючыся па гэтых дзядзьках чагосьці вясёлага, а прышлыя ды прыезджыя — у недаўменні, як і той плёхаўскі* ***кенгуру.*** Метафара *кенгуру* ў гэтым сказе была б незразумелая без папярэдняга кантэксту, без параўнання. У рамане І. Мележа «Мінскі напрамак»: *Вакол быў змрок. Дарога ў ім віднелася* ***цьмяна-шэраю ручаінаю.*** *Аляксей Лагуновіч, седзячы на вежы, спусціўшы ногі ў сярэдзіну яе, бачыў, як бегла і бегла насустрач* ***гэтая ручаіна,*** *як абапал праходзілі цёмныя, ледзь відныя дрэвы, кусты, падобныя ў змроку на копы сена. Часам* ***шэрая ручаіна*** *надоўга прападала, машыну пачынала больш кідаць ва ўсе бакі: батальён ішоў напрасткі па полі...* Аўтар спачатку ўжывае творны параўнання — *цьмяна-шэраю ручаінаю*, а потым на аснове параўнання стварае метафару *ручаіна*, займеннік *гэтая* звязвае яе з параўнаннем. Ужытае ў апошнім сказе метафарычнае словазлучэнне *шэрая ручаіна* не зразумелае без папярэдняга кантэксту.

Метафара макракантэксту можа знаходзіцца ў розных пазіцыях адносна слова ці тэксту, якія яе тлумачаць, падтрымліваюць, падрыхтоўваюць. Найбольш пашыранае яе ўжыванне — постпазіцыя. Калі ж метафара ў прэпазіцыі, чытачу самому часта даводзіцца раскрываць яе значэнне на аснове пэўных слоў ці выразаў: *І ўсюды, на кожнай купінцы, на кожным астраўку, проста на вадзе — зялёная радасць. Зелянела асака, зелянела лаза, усё гусцей зелянелі алешнікі* (І. Мележ. Людзі на балоце). Значэнне метафары *зялёная радасць* раскрываецца ў наступным сказе.

Метафарызаванае слова або словазлучэнне могуць быць назвай мастацкага твора. Значэнне такой метафары раскрываецца ўсім яго зместам: «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «На ростанях» Я. Коласа, «Птушкі і гнёзды» Я. Брыля, «Глыбокая плынь» І. Шамякіна, «Подых навальніцы» І. Мележа, «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіча і інш.

Метафары, якія ствараюцца і рэалізуюцца ў макракантэксце ці ва ўсім творы, заўсёды аўтарскія. Яны — сведчанне майстэрства пісьменніка, яго адчування слова. (Пра метафарызацыю гл. таксама **Мастацкі стыль**).

*Літ.:* Черкасова Е. Т. Опыт лингвистической интерпретации тропов: (Метафора) // Вопр. языкознания. 1968. № 2; Бахмутова Н. И. О некоторых основных понятиях процесса метафоризации // Вопросы стилистики: Межвуз. науч. сб. Саратов, 1972. Вып. 4; Некрасова Е. А. Метафора и ее окружение в контексте художественной речи // Слово в русской советской поэзии. М., 1975; Арутюнова Н. Д. Синтаксические

функции метафоры // Изв. АН СССР. Сер. лит. и языка. 1978. № 3; Я е ж: Функциональные типы языковой метафоры // Тамсама. № 4; Ц і к о ц к і М. Я. Сугучнасць слоў жывых... Мн., 1981; К а в а л ё в а М. Метафара і кантэкст // Моўныя адзінкі і кантэкст. Мн., 1992; Я е ж: Метафара і макракантэкст у «Палескай хроніцы» Івана Мележа // Тамсама; Г а ў р о ш Н. Метафарычны эпітэт у мастацкіх тэкстах // Тамсама.

*М. Ц. Кавалёва.*

## МЕТРЫКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Метрыка Вялікага княства Літоўскага (іншыя назвы — «Metryka magni ducis Lithuaniae», «Літоўская метрыка») — дзяржаўны архіў Вялікага княства Літоўскага 14—18 ст. Яна змяшчае акты, якія выдаваліся ад імя вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх, разнастайныя дакументы сеймаў, урадавых і прыватных асоб, судовыя рашэнні, запаветы, інструкцыі і справаздачы паслоў, воінскія і казначэйскія рэестры і г. д. Метрыка — першаступенная крыніца для вывучэння гісторыі Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы, унікальны помнік пісьмовай праваной культуры Беларусі і Літвы эпохі Вялікага княства Літоўскага. У яе аснове — дакументы прыватных канцылярый літоўскіх князёў Вітаўта, Свідрыгайлы і Жыгімонта. Пры Казіміру Ягелончыку (1427—92) ужо існавалі кнігі, куды запісвалі копіі выдадзеных прывілеяў. Пазней стала традыцыяй, што ў час пераездаў вялікага князя яго пісар і дзяк вялі рэестры ўсіх велікакняжацкіх падараванняў і пастаноў, потым здавалі іх у архіў Метрыкі, дзе іх упісвалі ў адпаведныя кнігі. Да пачатку 16 ст. Метрыка захоўвалася ў Трокскім замку, пазней, да 1765 г.,— у Вільні. Паводле спецыяльнага рашэння сейма 1538 г. кнігі Метрыкі вяліся і захоўваліся з асаблівай акуратнасцю. У 1594 г. па распараджэнні канцлера Льва Сапегі Метрыку пачалі перапісваць, прычым старыя арыгінальныя кнігі захоўвалі ў архіве, а новыя перадавалі ў канцылярыю канцлера або падканцлера для агульнага карыстання.

Значная частка матэрыялаў Метрыкі загінула падчас шматлікіх войнаў. Арыгінальных кніг захавалася вельмі мала. Каля 1765 г. Літоўская метрыка перавезена ў Варшаву і аб'яднана з Метрыкай каронкай. Тут у 1773 г. дакументы Метрыкі ад 1386 да 1551 г. былі перапісаны польскім пісьмом. Пасля заняцця Варшавы ў 1794 г. рускімі войскамі Метрыку перавезлі ў Пецярбург. У 1796 г. распараджэннем царыцы Кацярыны II спецыяльная камісія для разбору кніг Метрыкі размеркавала матэрыялы Метрыкі паміж сенатам і замежнай калегіяй. Пасля яна зноў пераразмяркоўвалася. У 1836 г. новая ўрадавая камісія ўсе метрычныя справы ў залежнасці ад зместу і прызначэння раздзяліла на 12 аддзелаў: кнігі запісаў, кнігі судовых спраў, кнігі публічных спраў, перапісы, выпісы і г. д. У выніку яны трапілі ў адпаведныя ўрадавыя ведамствы: маскоўскі галоўны архіў Міністэрства замежных спраў, Маскоўскі архіў Міністэрства юстыцыі, Імператарскую публічную бібліятэку, Румянцаўскі музей, Варшаўскі галоўны архіў. Яшчэ ў 19 ст. Метрыка захоўвала сваё практычнае значэнне: паводле яе дакументаў вырашалі спрэчныя пытанні паміж казной і прыватнымі асобамі, зацікаўленыя асобы за адпаведную плату атрымлівалі з яе неабходныя выпісы на пацвярджэнне ўладанняў, копіі гербаў і радаслоўных і г. д. У наш час вядома больш за 600 тамоў Метрыкі, большая частка іх захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве (ЦДАСА), меншая — у іншых архівах.

З 12 аддзелаў кніг Метрыкі найбольш важныя і вялікія па колькасці тры: кнігі запісаў, судовых спраў і публічных спраў. Кнігі запісаў найбольш поўна адлюстроўваюць унутранае жыццё Вялікага княства Літоўскага і змяшчаюць прывілеі гарадам, мястэчкам і сёлам, парадак праўядзення гандлю і кірмашоў, розныя льготы і абмежаванні, прывілеі і статуты паасобных зямель, памеры падаткаў і пабораў, вызначэнне колькасці людзей і коней падчас вайны, граматы на розныя чыны і пасады; дыпламатычныя акты, духоўныя запаветы і г. д. У аддзеле судовых кніг змешчаны не толькі судовыя рашэнні, але і ўсе іншыя акты, якія мелі дачыненне да судаводства. Кнігі публічных спраў змяшчаюць акты агульнадзяржаўнага значэння — сеймавыя і канфедэратыўныя пастановы, пасольствы да замежных уладароў, граматы і дыпломы на пасады, чыны, ордэны, маёнткі і г. д.

Матэрыялы Метрыкі ад пачатку яе стварэння прыкладна да сярэдзіны 17 ст. напісаны пераважна на беларускай мове, пазнейшыя — на польскай і лацінскай. Так, у «Кнізе віленскага замкавага суда» 1553—57 гг. (рукапіс ЦДАСА, ф. 389, кн. 34) усе 376 дакументаў на 1288 старонках на беларускай мове. З канца 16 ст. ў некаторых кнігах Метрыкі трапляюцца польскія і лацінскія матэрыялы, гэта пераважна дакументы, упісаныя ў судовыя справы на беларускай мове. Напрыклад, у «Метрыцы караля Стэфана» 1583—85 гг. (рукапіс ЦДАСА, ф. 389, кн. 275) на 920 старонках больш за 200 дакументаў, з іх усяго 8 — на беларускай і польскай мовах, 4 — на польскай, 5 — на лацінскай, 1 — на беларускай і лацінскай, а ўсе астатнія — на беларускай. У «Кнізе канцылярыі караля Сігізмунда» 1615—18 гг. (рукапіс ЦДАСА, ф. 389, кн. 295) на 550 старонках змешчаны 144 дакументы на

Літоўская метрыка. Кніга Віцебскага замкавага суда. 1533—1540. Ліст 11 (верхняя і ніжняя часткі).

беларускай мове, 16 — на беларускай і польскай, 11 — на польскай і 1 — на лацінскай. У кнігах Метрыкі пачатку 17 ст. значная колькасць дакументаў на польскай мове пачынаецца і канчаецца традыцыйнымі формуламі на афіцыйнай беларускай мове. У сярэдзіне 17 ст. некаторы час дакументы пісалі па-беларуску, але кoратка выкладалі іх змест па-польску.

Для гісторыі беларускай мовы, натуральна, першаступеннае значэнне маюць матэрыялы, напісаныя на беларускай мове. З іх асабліва каштоўныя судовыя справы, дзе нярэдка змяшчаюцца выдатныя ўзоры жывой беларускай мовы таго часу.

У некаторых кнігах судовыя справы запісаны настолькі падрабязна, што часам займаюць да 50 старонак тэксту і фактычна ўяўляюць спецыяльныя юрыдычныя нарысы. Для гісторыкаў беларускай мовы дакументы Метрыкі каштоўныя яшчэ тым, што ўсе яны пашпартызаваныя — змяшчаюць дакладныя звесткі, дзе і калі дакумент быў запісаны. Матэрыялы Метрыкі практычна не адлюстроўваюць мясцовых дыялектных моўных асаблівасцей. У іх увасобілася беларуская мова як дзяржаўная мова Вялікага княства Літоўскага. Яна стваралася ў заканадаўстве, судах, канцылярыях і войску па ўсёй тэрыторыі дзяржавы. Дзяржаўнае значэнне мовы садзейнічала пераўтварэнню жывых народных гаворак у моцную і высокаразвітую дзяржаўна-літаратурную мову, якая пастаянна развівалася і ўдасканальвалася. Яна жывілася прытокам розных народных элементаў, шляхам пераносу і асэнсавання адпаведных уласных слоў або запазычанняў з іншых моў, выпрацоўвала новыя словы і тэрміны тэарэтычнай і адцягненай думкі, душэўных эмоцый, права і адміністрацыі, рамяства і тэхнікі, промыслу і гандлю.

Арфаграфічная сістэма і граматычны лад мовы Метрыкі істотна не адрозніваюцца ад іншых разнавіднасцей старабеларускага пісьменства. Але ў слоўнікавым складзе Метрыкі прыкметна вылучаюцца пласты канцылярска-юрыдычнай і адміністрацыйна-прававой тэрміналогіі. У дакументах адлюстравана шырокая дыферэнцыяцыя судоў розных інстанцый: *судъ асесорский, ´бурмистровский, войтовский, врѧдовый, гайный, головный, дворный, духовный, замковый, земский, кгродский, комисарский, копный, королевский, лавничий, належный, подкоморский, полюбовный, посполитый, свецкий, трибунальский*. Непасрэднымі ўдзельнікамі судовых працэсаў былі *сторона болѧчаꙗ, доводоваꙗ, жалобнаꙗ, обвиненаꙗ, обжалованаꙗ, обрaжонаꙗ, отпорнаꙗ, поводоваꙗ, позванаꙗ, противнаꙗ, сутѧжнаꙗ, укривжонаꙗ*. Падставай для ўзбуджэння судовай справы або для апраўдання абвінавачанага боку служылі разнастайныя дакументы, якія рэгулявалі і ўзаемаадносіны паміж людзьмі ў паўсядзённым грамадскім і гаспадарчым жыцці. Назвы гэтых дакументаў — складаныя тэрміны з назоўніка *листъ* і прыметніка-азначэння: *листъ баницыйный, веновный, вечистый, врѧдовый, вызволеный, вызнаный, господарский, граничный, добровольный, дозволеный, докончальный, еднальный, жалованый, железный, завитый, заводчий, закривальный, закупный, заменный, замереный, записный, заповедный, заручный, заставный, зашитый, кглейтовный, комисарский, комисийный, королевский, купчий, меняльный, местский, опасный, опекальный, отвористый, отправчий, отрочоный, перемирный, писаный, подводный, позовный, потвержоный, привилейный, приповедный, присѧжный, продажный, проеждзий, ревизорский, релѧксацыйный, ремисийный, розводный, слушный, судовый, увѧжчий, угодный, умоцованый, универсальный, упоминальный, уступный, фундушный*.

У судовыя кнігі Метрыкі ўносіліся самыя разнастайныя дакументы, якія ў залежнасці ад зместу і прызначэння забяспечваліся адпаведнымі назвамі. Так, змешчаныя ў «Кнізе віленскага замкавага суда» 1553—57 гг. і ў «Метрыцы караля Стэфана» 1583—85 гг. дакументы маюць назвы *варунокъ, взѧтье, видымусъ, влитье, вольность, вписанье, вызволенье, вызнанье, выпущенье, выреченье, вырокъ, дарованье, декретъ, делъ, дознанье, заведенье, замена, записанье, записъ, застава, застановенье, зоставенье, квитацыꙗ, контроверсыꙗ, листъ, описанье, оповеданье, оправа, отложенье, отосланье, пильность, поданье, подвезанье, позволенье, покладанье, померкованье, поступенье, потверженье, привилей, признанье, присуженье, продажа, проданье, протестацыꙗ, пущенье, розознанье, розраженье, скасованье, сознанье, справа, спущенье, тестаментъ, уведенье, угода, учиненье, фундованье*.

Прыведзеныя прыклады паказваюць, як шырока выкарыстоўваліся семантычныя і словаўтваральныя магчымасці беларускай мовы ў канцылярска-юрыдычнай дзейнасці. Разам з тым слоўнікавы састаў Метрыкі вылучаецца вялікай колькасцю адміністрацыйнай і канцылярска-юрыдычнай тэрміналогіі лацінскага паходжання. Напрыклад, толькі ў адной «Кнізе судовых спраў» падканцлера Астафія Валовіча 1615—18 гг. (рукапіс ЦДАСА, ф. 389, кн. 295) сустракаем лацінскія назвы службовых і іншых асоб: *администраторъ, акторъ, антецесоръ, арендаръ, асесоръ, депутатъ, евикторъ, енералъ, инстыкгаторъ, канцлеръ, комисаръ, принципалъ, ревизоръ, референдаръ, секретаръ, сукцесоръ, фундаторъ*. Асобны разрад утвараюць лацінскія назвы розных дакументаў і дзелавых папер: *актъ, артикулъ, видымусъ, декретъ, документъ, екстрактъ, квитъ, конституцыꙗ, мамрамъ, мандатъ, привилей, реестръ, статутъ, тестаментъ, цедула*. Аднак асноўная колькасць лацінізмаў гэтай кнігі — словы рознай прадметнай і паняційнай прыналежнасці, з іх асабліва часта ўжываюцца наступныя: *алекгацыꙗ, аммистыꙗ, апелѧцыꙗ, атестацыꙗ, баницыꙗ, вотумъ, дылѧцыꙗ, екзекуцыꙗ, ексцепцыꙗ, ексцесъ, инвентаръ, инквизицыꙗ, интромисыꙗ, капитула, комисыꙗ, композыцыꙗ, консенсъ, контроверсыꙗ, лимитацыꙗ, мониментъ, посесыꙗ, провентъ, протестацыꙗ, рацыꙗ, ревизыꙗ, рекокгницыꙗ, релѧцыꙗ, терминъ, трибуналъ, форумъ, фундацыꙗ, юрыздыкцыꙗ*. Тут, як і ў іншых кнігах Метрыкі, трапляюцца і дзеясловы лацінскага паходжання: *депутовати, ексцыповати, касовати, протестовати, рекуперовати, суспендовати, фундовати*. Многія з гэтых лацінізмаў ужываюцца і ў сучаснай беларускай мове, але большая частка іх была запазычана паўторна пазней праз рускую мову, прычым некаторыя цяпер маюць іншае значэнне.

З другой паловы 19 ст. Метрыка страціла сваё практычнае значэнне, затое засталася надзвычай багатай крыніца разнастайных звестак па гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Матэрыялы Метрыкі сталі даступныя даследчыкам дзякуючы іх публікацыі, што пачалася з сярэдзіны 19 ст. і працягвалася на пачатку 20 ст. Важнейшыя выданні Метрыкі: «Кніга пасольская Метрыкі Вялікага княства Літоўскага», складзеная М. Абаленскім і І. Даніловічам (т. 1—2. М., 1843); «Акты Літоўскай метрыкі», сабраныя Ф. І. Леантовічам (т. 1, вып. 1—2. Варшава, 1896—97); «Дакументы Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі», выдадзеныя М. Доўнар-Запольскім (т. 1. М., 1900). Многа дакументаў Метрыкі выдала Археаграфічная камісія ў серыі «Акты, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» (т. 1—5. Спб, 1846—53). Паасобныя кнігі Метрыкі апублікаваны ў серыі «Руская гістарычная бібліятэка»: «Кнігі судовых спраў» (т. 20. Спб., 1903); «Кнігі запісаў» (т. 27. Спб., 1910); «Кнігі публічных спраў» (т. 30. Юр'еў, 1914; т. 33. Пг., 1915).

У 1980 г. Інстытутам гісторыі Польскай акадэміі навук і Інстытутам гісторыі АН СССР быў складзены рабочы план выдання Метрыкі. Да гэтай работы падключаны і супрацоўнікі Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Кнігі Метрыкі, якія пісаны кірыліцай і захоўваюцца ў Маскве, будуць выдавацца рускімі і беларускімі вучонымі, а матэрыялы з польскіх архіваў, пісаныя лацінкай, рыхтуюць польскія даследчыкі.

*Літ.:* Литовская метрика, государственный отдел Великого княжества Литовского, при правительствующем сенате / Сост. Л. М. Зельверович. Т. 1. Спб., 1883; Пташицкий С. Л. Описание

книг и актов Литовской метрики. Спб., 1887; Бережков Н. Г. Литовская метрика как исторический источник. Ч. 1. М.; Л., 1946. *А. І. Жураўскі.*

## МІКРАТАПАНІМІКА

Мікратапаніміка (ад грэч. *mikrós* малы + *tópos* мясціна + *ónyma* імя) — навука, якая вывучае мікратапанімію — сукупнасць назваў дробных геаграфічных аб'ектаў: палёў, лясоў, сенажацей, балот, лугоў, дарог, пашаў, урочышчаў і інш. Мікратапонімы цесна звязаны з бытам і дзейнасцю людзей, якія па ўласных назвах арыентуюцца ў межах адной мясцовасці, нават вёскі.

Мікратапонімы — важная крыніца вывучэння гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі, мовы народа. У іх захоўваюцца ўказанні на заняткі людзей у мінулым, на былыя паселішчы, раслінны і жывёльны свет краю *(Агароднікі, Бабровіна, Бандары, Буслянка, Возера, Гарадзішча, Гута, Дворышча, Зарэчча)*. Галоўная крыніца ўзнікнення і фарміравання назваў урочышчаў — геаграфічнае асяроддзе і ўласныя імёны.

Сярод мікратапонімаў шмат назваў-арыенціраў *(За дарогаю, Пад кладкамі, Між рэчак, На выгане ў куточку)* і варыянтных назваў *(Вялікая дарога — Шырокая дарога, Бор — Барок. Пад дубамі — У дубніку)*. Таму менавіта гэты жывы матэрыял дазваляе выявіць і прасачыць характэрныя прыкметы мікратапаніміі.

Мікратапонімы ўтвараюцца ад агульных назоўнікаў *(Бор, Востраў, Луг)*, ад імёнаў і прозвішчаў людзей *(Андрэйка, Клімавічы, Міхалоўшчына)*, ад прыналежных прыметнікаў *(Васілёва, Жукава, Цвіркава)*, назваў паселішчаў (*Міхейкаўшчына* — ад в. *Міхейкі*, *Старыцкае* — ад в. *Старыца*), назваў рэк (*Вясейка* — ад р. *Вясея*, *За Арэсаю* — ад р. *Арэса*).

Вывучэнне назваў, якія паходзяць ад агульных найменняў прадметаў ці паняццяў, пашыраных у мове папярэдніх пакаленняў, узбагачае веды пра беларускую мову старажытнай пары: *Валока* (мера ворнай зямлі, каля 20 дзесяцін), *Морг* (мера ворнай зямлі, каля паўдзесяціны), *Выжар* (выгаралая мясціна на балоце), *Ляда* (поле, ворная зямля на месцы высечанага лесу), *Прыдаткі* (дадатковыя ўчасткі поля да асноўнай зямлі, сядзібы), *Прыдзіркі* (невялікія ўчасткі зямлі, «прыдраныя» да асноўнага поля). Некаторыя агульныя назвы захаваліся толькі ў мікратапонімах: *Жара* (вапна), *Круха* (крушына), *Ралы* (рала — раздвоены ствол дрэва), *Смалянікі* (смалянка — лугавая кветка), *Шыпайка* (шыпшына). Шэраг мікратапонімаў на сучасным этапе не адпавядае тым наменклатурным тэрмінам, якія леглі ў іх аснову. Поле называюць *Гаем*, хоць гаю ўжо даўно няма. Асушанае балота застаецца *Балотам*. Палі *Рог* і *Вугал* цяпер не ў «рагу» і не ў «вугле», аднак назвы захаваліся. Ва ўрочышчы *Бабры* няма ні аднаго бабра. Там, дзе былі *Брады*, праходзіць новая дарога. Калі на *Жаўрыдаўшчыне* не жыве Жаўрыд, *Міхасёў астравок* не належыць Міхасю, *Паўлаўка* не ўласнасць Паўла, сенажаць *Залес* знаходзіцца цяпер не за лесам, то мікратапанімічныя назвы выконваюць толькі назыўную функцыю. Першапачатковы сэнс назвы пачынае ўспрымацца нейтральна, з аслабленнем семантычнай нагрузкі, і толькі называе пэўную мясцовасць.

Назвы дробных геаграфічных аб'ектаў утварыліся пераважна трыма спосабамі: семантычным, марфемным і сінтаксічным.

Утварэнне мікратапонімаў семантычным спосабам — гэта пераасэнсоўванне слова (агульных назваў, уласных імёнаў), набыццё ім новага лексічнага значэння: *Возера, Гара, Мост, Першая палянка на Міхалоўшчыне.*

Як і ў тапаніміі (гл. **Тапаніміка**), у мікратапаніміі пераважае марфемнае словаўтварэнне, а ў ім — розныя спосабы: прэфіксальны *(Залес, Падлуг, Міжбрады)*, суфіксальны *(Клімавічы, Азерцы, Гаўрылаўшчына, Малінаўка, Грыцкаў, Казлова, Якуціна, Кругловіна, Печышча, Смалярня, Сосніца, Дубнік, Ельнікі, Вугалкі)*, прэфіксальна-суфіксальны *(Залессе, Заполле, Падлужжа, Прылозкі, Урэчча, Падрабінка, Ускрывалле)*, бязафіксны *(Махорты, Палазнікі, Чаратуны)*.

Да мікратапонімаў, якія ўтварыліся сінтаксічным спосабам, адносяцца складаныя назвы. Узніклі яны шляхам аб'яднання двух слоў у адну лексічную адзінку, такім чынам узнікала двухчленная назва *(Вялікі лес, Мокры роў, Зялёная дуброва)* або адно самастойнае слова — назва ўрочышча *(Качан-рог, Мір-гара)*. У сінтаксічным тыпе вылучаюць тры спосабы ўтварэння назваў: лексіка-сінтаксічны (велізарная колькасць састаўных назваў — *Вялікае балота, Хваёвая града, Яновічаў шнур, Крывая дарога, Ляхава ляда, Алесін востраў, Яноўскі сад, Хрыпкавых куток, Малыя ляскі, Косы брод, Слізкія бервы, Хітры пасёлак, Бліжняе Платонава*), сінтаксічна-марфалагічны *(Камармох, Куля-горка, Верх-Нежын, Белагошча, Навасёлкі, Сукнавалле)*, марфолага-сінтаксічны, у аснове якога — субстантывацыя прыметнікаў *(Высокі, Баравое, Шырокія, Арлоўскія, Гарыстае, Ліпнае, Заломісты, Дворнае, Сумеснае)*.

У залежнасці ад словаўтваральнай асновы ў асобныя групы можна выдзеліць мікратапонімы, якія ўтварыліся ад дыялектных слоў. Напрыклад, *Казлаватае* (ад *казёл* — разгалінаваны, раздвоены ствол дрэва), *Лутавое* (ад *лут* — ліпавае лыка), *Мушкі* 'поле' (ад *мушкі* — невялікія каласкі жыта-самасейкі), *Рашотнае* (ад *рашотка* — прылада, зробленая з рэшата, лавіць рыбу зімою), Вярэня (ад *вярэня* — гнілы, забалочаны лес), *Застружніца* 'балота' (ад *струга* — ручай, рачулка, зарослая травою).

Побач з абсалютнай большасцю мікратапонімаў, што паходзяць ад агульных імёнаў і прозвішчаў людзей, у асобную групу вылучаюць мікратапонімы дзеяслоўнага паходжання. Яны адлюстроўваюць працу людзей, землеўпарадкаванне, апрацоўку зямлі, догляд жывёлы і іншыя віды дзейнасці: *Выжар, Выжары* (ад *гарэць, выгараць*), *Выдзірак, Прыдзіркі* (ад *драць, прыдраць*), *Праход, Праходцы* (ад *хадзіць, праходзіць*).

Назвы ўрочышчаў утвараліся пераважна тымі самымі спосабамі, што і назвы пасяленняў. У мікратапаніміі паўтараецца і канцэнтруецца большасць словаўтваральных і семантычных груп тапонімаў, напрыклад: назвы на *-ічы, -шчына, -ка, -ова, -ок, -ец, -іца, -ня, -ішча.* Мікратапанімія — гэта ў некаторай ступені паўтарэнне тапаніміі краю: пад назвамі *Дуброва, Падлуг, Цітаўшчына, Гарадзішча, Залессе, Зялёная Дуброва* часам вядомыя адначасова і вёска і ўрочышча.

Рэзкай мяжы, якая аддзяляе мікратапанімію ад тапаніміі, няма і быць не можа. Але мікратапанімія мае шмат асаблівасцей, якія адрозніваюць яе ад тапаніміі. Мікратапонімы бліжэй да агульных імёнаў, чым тапонімы. Шматлікія назвы ўрочышчаў праходзяць стадыю фарміравання: *За дарогаю, Пад ліпкаю.* Яшчэ невядома, ці стануць гэтыя прыназоўнікавыя канструкцыі «сапраўднымі» мікратапонімамі. Некаторыя ўрочышчы маюць дзве і нават тры назвы-дублеты, чаго не назіраем у тапаніміі: *Бярозавы вугал — Вугал, Селішча — Корзунава палянка.* Гэта так званыя варыянты назваў. Граматычная і лексічная ўстойлівасць шмат якіх мікратапонімаў адносная: адно і тое ўрочышча людзі могуць назваць *Паміж рэчак* і *У рэчках, За гравейкаю ля завода* і *Ля завода за гравейкаю.* Мікратапанімія адрозніваецца ад тапаніміі і вялікай колькасцю складаных назваў тыпу *Вялікі лес, Дзедава поле*, выкліканых імкненнем людзей больш дакладна ахарактарызаваць урочышчы роднай мясцовасці.

Па колькасці адзінак мікратапанімія ў сотні разоў перавышае тапанімію. На Беларусі каля 31 тысячы населеных пунктаў, і вакол кожнага з іх мноства дробных геаграфічных аб'ектаў са сваімі імёнамі.

Мікратапанімія як сукупнасць назваў дробных геаграфічных аб'ектаў пачала вывучацца на Беларусі ў 1960-я гады. Багаты мікратапаніміч-

ны матэрыял улічваецца пры вывучэнні беларускай дыялектнай лексікі і асабліва словаўтварэння ў народных гаворках. Вывучаючы гэты матэрыял, мовазнаўцы спрабуюць паказаць навуковае значэнне і асаблівасці мікратапаніміі, крыніцы і шляхі ўтварэння мікратапонімаў, вызначыць тыпы і спосабы словаўтварэння назваў геаграфічных аб'ектаў. Ад колькасці назваў вызначаецца і ступень пашыранасці асобных словаўтваральных тыпаў.

Змены ў грамадскім жыцці насельніцтва і ў ландшафце мясцовасці — асноўная прычына семантычных зрухаў у значэнні мікратапонімаў.

Змены назваў урочышчаў абумоўленыя гістарычнымі прычынамі, выкліканыя рознымі акалічнасцямі: высякаюцца лясы, распрацоўваюцца новыя палі, асушваюцца балоты, людзі пакідаюць забруджаныя радыяцыяй раёны. Адны назвы знікаюць, другія зменьваюцца, іншыя ўжываюцца традыцыйна. Некаторыя незразумелыя назвы людзі пераасэнсоўваюць. Адсюль — замена адной назвы другою, або — марфемныя змены ў адной і той назве. Часта адна назва не паспела знікнуць, а ўжо ёсць другая, і яны існуюць паралельна. Іншы раз немагчыма ўстанавіць, якая з дзвюх-трох назваў больш пашыраная.

Назвы дробных геаграфічных аб'ектаў маюць свае асаблівыя, спецыфічныя, толькі ім уласцівыя прыкметы. Так, распаўсюджана комплекснае найменне ўрочышчаў адным мікратапонімам. Дробныя геаграфічныя аб'екты аб'ядноўваюцца пад адной назвай па галоўнай прыкмеце мясцовасці. Важнае значэнне тут мае мікратапанімічная метанімія.

Вялікае выхаваўчае значэнне назваў. Пазнаць і вывучыць іх — значыць яшчэ больш палюбіць бацькаўшчыну, яе людзей, прыроду, мову і гісторыю народа. Мікратапонімы — гэта россыпы народнай мудрасці і хараства, вынік тонкіх назіранняў чалавека над навакольнаю прыродаю. Яны часта ўжываюцца ў творах мастацкай літаратуры, дзе ўказваюць на дадатковыя звесткі, месца дзеяння, рэальнасць падзей.

*Літ.:* Адамовіч Я. М. Мікратапанімічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія. Мн., 1971; Яго ж; Мікратапанімія Беларусі. Мн., 1974; Яшкін І. Я. Беларускія геаграфічныя назвы. Мн., 1971.

*Я. М. Адамовіч.*

## МІКУЦКІ СТАНІСЛАЎ ПАЎЛАВІЧ

Мовазнавец і фальклярыст С. П. Мікуцкі нарадзіўся 7 лістапада 1814 г. У 1851 г. скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта. Доктар філалагічных навук (1878). У 1873—88 гг. працаваў на кафедры параўнальнага мовазнаўства. У 1853—56 гг. па даручэнні Пецярбургскай Акадэміі навук даследаваў беларускія і літоўскія гаворкі, збіраў беларускі фальклор. Па выніках экспедыцыі апублікаваў 9 навуковых справаздач, «Спробу літоўска-рускага слоўніка» і інш. Памёр 6 верасня 1890 г.

Працы С. П. Мікуцкага асвятляюць сувязь славянскіх моў з балтыйскімі, з мовамі германскай, кельцкай, індыйскай груп. З сабраных матэрыялаў у 1855 г. склаў слоўнік на 2010 слоў, якія грунтоўна растлумачыў і праілюстраваў (310 слоў надрукавана ў «Известиях Императорской Академии Наук по Отделению Русского языка и словесности», т. 2, 1853; асобнае выданне 1854 г.). У слоўнікавай картатэцы — уласна беларускія, запазычаныя і гукапераймальныя словы. Зафіксаваны фанетычныя і марфалагічныя варыянты слоў. Тлумачэнні даходлівыя, дакладныя. Да назваў раслін, жывёл, птушак дадзены лацінскія адпаведнікі. Сустракаюцца этнаграфічныя і этымалагічныя даведкі. Для ілюстрацый выкарыстоўваюцца ўрыўкі песень, прыказкі, прымаўкі, загадкі, народныя зычэнні. У словах пазначаюцца націскі. Выкарыстоўваюцца граматычныя паметы. Дасканалы ў лексікаграфічных адносінах, слоўнік — значны крок на шляху беларускай лексікаграфіі. Тут былі змешчаны і філалагічныя назіранні С. П. Мікуцкага — параўнанне каранёў і слоў санскрыту і славянскіх моў.

У гэтым жа часопісе вучоны надрукаваў даследаванне «Абласныя словы беларускіх старцаў» (т. 2. 1853). Вынікам моўна-фальклорных пошукаў С. П. Мікуцкага стаў зборнік «Беларускія песні і загадкі, запісаныя ў Віцебскай губерні ў маёнтку Зябкі Дрысенскага павета» (1853).

*Літ.:* Гуліцкі М. Беларускі слоўнік Станіслава Мікуцкага // Полымя. 1971. № 8.

*М. Ф. Гуліцкі.*

## МІЛАГУЧНАСЦЬ МОВЫ

Пад мілагучнасцю (сінанімічная назва — эўфанія) разумеюць прыемнае гучанне мовы. Мілагучнасць беларускай мовы грунтуецца на яе ўнутраных уласцівасцях, абумоўлена фанетычнай сістэмай, найперш тым, што абсалютная большасць складоў у беларускай мове, як і ў рускай, адкрытая. Адкрытыя склады, пабудаваныя на прынцыпе ўзыходнай гучнасці, надаюць мове плаўнасць, музычнасць. Павышае мілагучнасць беларускай мовы адметны санорны гук [ў] (блізкі да галоснага [у]), які ўжываецца ў шматлікіх словах і формах розных часцін мовы: *галоўка, аўтарак, ваўкоў, заўтрашні, за ўсё, паўсюль.* Увогуле спецыфіка гучання беларускай мовы багата ў чым ствараецца асаблівасцямі артыкуляцыі зычных. Так, вельмі мяккія *ц', дз', с', з', н'*, адметныя зычныя *дж, ч, р*, падоўжаныя *л', н', з', с', дз', ц'* і іншыя надаюць гучанню характэрнае адценне, якое ўсведамляецца носьбітамі беларускай мовы як яе эстэтычная ўласцівасць. Згадаем паэтычнае выказванне-ацэнку П. Панчанкі: *І ўсё мілагучна для слыху майго: // І звонкае «дзе», і густое «чаго».*

Можна назваць яшчэ некаторыя фанетычныя заканамернасці і з'явы, якімі забяспечваецца мілагучнасць нашай мовы: чаргаванне гукаў, поўнагалоссе, прыстаўныя галосныя і зычныя, асаблівасці націску і г. д. Такім чынам, прыемнае, прыгожае і натуральнае гучанне вусная і пісьмовая мова можа мець тады, калі яна будуецца з улікам асаблівасцей фанетыкі. Адыгрываюць сваю ролю таксама структурны тып сказа, выкарыстанне сінанімічных і варыянтных сінтаксічных канструкцый у межах таго ці іншага функцыянальнага стылю.

Мілагучнасць непасрэдна звязана з рэалізацыяй мастацкай, эстэтычнай функцыі мовы. Таму эўфаніі надаецца асаблівая ўвага ў творах літаратуры і фальклору. Да музыкі даведзена гучанне слова ў народнай песні: *Ой, там за ракою, // Ой, там за быстрою // Мяне мамачка кліча, // Кліча ды гукае: // «Гэй, гэй, гэй!» // — Не кліч мяне; мамка, // Не пайду за табою: // Мне й ночка — апаска, // І дарожанька — гразка, // І вячэра з табой — // Са слязой!*

Нашы продкі здавён-даўна звярталі ўвагу на тое, як гучаць словы і іх спалучэнні ў жывой гаворцы. У шматлікіх народных выслоўях даецца ацэнка выказванням, гутарцы адносна гучання. Вось як успрымае народ прыгожую, мілагучную мову: *Яна загаворыць, як у званок зазвоніць, яна заспявае, як на скрыпцы зайграе; Яна скажа, як птушачка зашчабеча; Гаворыць, як крыніца булькоча; Галасок як званок.* Не менш трапна паказваюцца заганы ў гучанні мовы: *Гаворыць, як тры дні не еўшы; Гаворыць, як з вопнаю ў роце; Прамовіў, як з-пад зямлі; Балбоча, як цецярук (як удод); Залапатаў, як цецярук; Сыкае, як гусак.*

Плённа карыстаюцца гукавой арганізацыяй мовы пісьменнікі. У вершы Л. Геніюш «Мая мова» выразнасць, эмацыянальнасць паэтычных радкоў памацняе алітэрацыя (паўтор гука [л]): *Мая мова не знае змярканняў // ад маленства да старасці **лет**, // буду песціць яе, як каханне, // разг**ля**даць, як чароўны букет.* Спалучэнні з гукам [л] (***улонні**, **прывабл**івых, **найвял**ікшы, **калы**ску, **л**ітасціва*) і інш.) ідуць праз увесь твор, перадаючы задушэўнасць, лірызм, чысціню (бы «вадзіца крынічная») гучання

мовы. У вершы М. Лужаніна «Роднае слова» сэнсава-эмацыянальны акцэнт (інтэнсіўнасць дзеяння) нясе мастацка матываваны паўтор гука [а] (асананс): *Суджана, стаўлена пад перакладзіны, // Сечана, палена, а не аддадзена, // Не парастрачвана і не раскрадзена, // Рупна ў падмуркі на золку пакладзена // Роднае слова.*

Мілагучнасць забяспечваецца і тым, што аўтары пазбягаюць непрыемных для слыху, цяжкавымоўных спалучэнняў гукаў, формаў слова, аднатыпных сінтаксічных канструкцый. Інакш сказаць, тэндэнцыя да мілагучнасці актуальная на розных моўных узроўнях (фанетыка, лексіка, словаўтварэнне, марфалогія, сінтаксіс).

Якуб Колас разглядаў як неўласцівыя беларускай мове і немілагучныя формы дзеепрыметнікаў накшталт *прадстаячы, маючыйся, кіруемы* і іншых «страхападобных слоў». У адпаведнасці з такім разуменнем дзеяслоўная форма ў звароце *абслугоўваючы персанал*, які пэўны час ужываўся ў беларускай мове, была заменена больш мілагучным прыметнікам *абслуговы*.

Ёсць нямала цяжкіх на вымаўленне слоў і сярод літаратурнай лексікі: *аблдрамтэатр, безэпітэтны, выпакутаваны, кампраметаваць, консэнсус, манафтангізацыя, перпендыкуляр, усюдысны, уцяжарвальнік* і інш. Зразумела, такія словы трэба вымаўляць павальней, каб яны гучалі выяўна і ўспрымаліся адэкватна.

Мова, у якой парушаны літаратурныя нормы, раздражняе слухача, гучыць для яго непрыемна, непрыгожа. Напрыклад, немілагучныя формы роднага склону множнага ліку назоўнікаў *вучылішч, Вольг, ролей* (замест *вучылішчаў, Вольгаў, роляў*). Словы, якія вымаўлены з парушэннем правілаў арфаэпіі: [св'áта], [пасл'á], [ганары́шс'а], [праграмма], [хад+жý і хажý]. Правільнае вымаўленне: [с'в'áта], [пас'л'á], [ганары́с'с'а], [прагра́ма], [хаджу].

Важная ўмова мілагучнасці — натуральнасць сінтаксічнай будовы і лексічнага напаўнення сказа, тэксту. Гэту думку пацвярджаюць словы Кузьмы Чорнага: «Адзін аўтар пісаў: «вецер распаўсюджваў пах кветак». Расійскае «распространять» у нас пішуць «распаўсюджваць» («распаўсюджваць газеты», «распаўсюджваць аблігацыі»). У інструкцыі, ў пратаколе, нарэшце ў артыкуле, дык гэткая мова яшчэ — паўбяды; але ў мастацкім творы, дык гэта вельмі суха і непрыгожа. Куды прыгажэй было б напісаць проста — «пахлі кветкі» або «дзьмуў вецер, і пахлі кветкі» (Замест паштовае скрынкі // Чорны К. Зб. тв. Т. 8. С. 95—96).

У тэкстах трапляюцца функцыянальна і стылістычна не матываваныя паўторы аднолькавых, роднасных, іншых блізкіх гучаннем слоў. Такія паўторы зніжаюць літаратурны ўзровень мовы. «Пабочнае» гучанне бярэ верх, адцягвае ўвагу ад значэння слоў, перашкаджае ўспрыняць сэнс: *Мусіць, трэба* ***гаварыць*** *не пра цяжкасці перакладу, а пра самога паэта. Будзе гэта* ***гаворка*** *пра зачараванне. З той* ***агаворкай,*** *што для перакладчыка яно не з'яўляецца рамантычным, сляпым захапленнем...;* ***Не выключана,*** *што на сёлетнім жніве сын* ***выкліча*** *бацьку на спаборніцтва.*

Парушэнне мілагучнасці назіраецца і тады, калі ў сказе ўжыта некалькі слоў з аднолькавымі ці блізкімі (гучанне) прыстаўкамі, суфіксамі: *Пярэднія колы карэты крута павернуты* ***ўправа,*** *коні* ***ўстрывожаныя, услухоўваюцца*** *ў лясную цішыню;* ***у пана ўпаў*** *з галавы капялюш...; Помніцца,* ***дарэчы,*** *як* ***аднойчы, гаворачы*** *пра песні, ён заспяваў...* У першым сказе манатоннасць гучання ўзмацняецца прыназоўнікам *ў(у)*.

Непажаданы паўтор аднолькавых гукаў ці сугучных складоў нярэдка бывае на стыку слоў: *Праца выка****нана на найлепшым узроўні;*** *Госці* ***з цікавасцю*** *аглядалі калгасныя палеткі; Сала****ўі ўюць*** *гнёзды на зямлі;* ***Але ў але****няняці ёсць надзейныя абаронцы; Вы мне здаваліся* ***тады, ды і да*** *ўчарашняга дня, узорным членам ордэна; Волат дуб стаіць,* ***бы помнік;*** *Нерухома,* ***як акамянеўшы,*** *жанчына застыла каля стала.* Звернем увагу на мілагучныя параўнальныя звароты: *Звоніць, скача,* ***як дзіцятка,*** *гэты жэўжык-ручаёк. На яго,* ***бы тая матка,*** *сонца кідае свой зрок* (Я. Колас); *Начамі,* ***што яблыкі,*** *падаюць зоры* (П. Броўка).

Часам у празаічнай мове ўзнікае рыфмаванне суседніх ці блізка пастаўленых адно да аднаго слоў: *След колаў вёў у лясны* ***стан партызан. Старога*** *вельмі стаміла* ***дарога.*** Пазбегнуць стылёвага недахопу можна, замяніўшы сугучнае слова або змяніўшы яго форму: *След колаў вёў у лясны* ***стан партызанаў.*** *Стары вельмі* ***здарожыўся.***

Не вызначаюцца мілагучнасцю сказы, у якіх стаіць побач некалькі доўгіх або кароткіх слоў, напрыклад: *Уладна гурчаць сталёвыя брантазаўры дарог — далёкарэйсавыя цяжкавагавікі, што, натужліва равучы, кругласутачна імчаць з грузамі.*

Вядома, у пісьмовай і вуснай мове не аднолькавыя магчымасці адбору і выкарыстання лексічных і граматычных сродкаў. Гаворачы, мы думаем найперш пра сэнс, сочым, што кажа суразмоўнік, зважаем на абставіны, у якіх адбываецца гутарка. Усё гэта змяншае магчымасць узважваць, як «прыгнана» слова да слова, як гучаць іх спалучэнні. Пісьмовая мова ў гэтых адносінах дае перавагу. Пішучы, заўсёды можна падумаць, ці падыходзіць тое або іншае слова, схема сказа, а то і вярнуцца да напісанага, каб зрабіць папраўкі. Важна бачыць і спалучэнні слоў, і асобныя сказы, і шырэйшы кантэкст. Трэба, падкрэслівае Я. Скрыган, «абавязкова правяраць фразу на голас».

Праблема мілагучнасці беларускай мовы чакае далейшай навуковай і практычнай распрацоўкі. Надзейны грунт для гэтага заклалі У. Дубоўка, Я. Колас, К. Чорны, Я. Скрыган, Р. Шкраба, Ф. Янкоўскі.

*Літ.:* Дубоўка У. Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасці нашае мовы // Узвышша. 1927. № 4; Спадчына. 1992. № 5; Гардзіцкі А. Дыялогі. Мн., 1968; Янкоўскі Ф. М. Роднае слова. Мн., 1967; Яго ж. Само слова гаворыць. Мн., 1986; Каўрус А. Гучанне слова ў кантэксце // Слова і фразеалагізм у кантэксце. Мн., 1983; Яго ж. Слова наша роднае. Мн., 1986.

*А. А. Каўрус.*

## МІХНЕВІЧ АРНОЛЬД ЯФІМАВІЧ



Беларускі мовазнавец А. Я. Міхневіч нарадзіўся 9 верасня 1936 г. ў г. Мінску. У 1958 г. скончыў філалагічны факультэт Гомельскага педінстытута. Працаваў настаўнікам на Палессі. З 1961 г. ў інстытуце мовазнаўства АН Беларусі (з 1978 г.— загадчык сектара рускай мовы). З 1991 г. прарэктар па навуковай рабоце і загадчык кафедры тэарэтычнага мовазнаўства Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта.

Кола навуковых інтарэсаў А. Я. Міхневіча вельмі шырокае. Ён апублікаваў на Беларусі і ў многіх іншых краінах больш за 280 прац — кніг, брашур, падручнікаў, артыкулаў, рэцэнзій, тэзісаў дакладаў па пытаннях граматычнай тэорыі, сінтаксісу, лексікалогіі і лексікаграфіі беларускай мовы, сацыялінгвістыкі, рыторыкі, ме-

тодыкі выкладання і практычнага навучання мове, гісторыі мовазнаўства.

Шмат увагі А. Я. Міхневіч аддаваў праблемам сінтаксісу беларускай мовы. У манаграфіі «Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ў беларускай мове: (Трансфармацыйны аналіз)» (1965) упершыню ў беларускім мовазнаўстве на падставе трансфармацыйнага метаду зроблены аналіз багатага фактычнага матэрыялу, што дазволіла аўтару размежаваць сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні тыпу *жыць сваёй воляй, мора вачэй, весці ўлік, верш трагічнай сілы* і пад. з марфолага-сінтаксічнымі амонімамі (як свабоднымі словазлучэннямі, так і фразеалагізмамі), даць класіфікацыю сінтаксічна непадзельных словазлучэнняў, высветліць семантыка-сінтаксічную будову і вызначыць сістэмныя фактары іх непадзельнасці. У манаграфіі змешчана першая ў беларусістыцы грунтоўная бібліяграфія па трасфармацыйным аналізе.

Манаграфія «Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы» (1976) прысвечана тэарэтычным пытанням граматыкі беларускай мовы. У цэнтры ўвагі даследчыка так званыя скрытаграматычныя катэгорыі, якія адыгрываюць важную ролю ў вызначэнні спалучальнасці слоў у маўленні, але марфалагічных паказчыкаў не маюць. На падставе сфармуляваных тэарэтычных палажэнняў аб сутнасці і характары скрытаграматычных значэнняў аўтар даў апісанне фрагмента семантыка-сінтаксічнай сістэмы беларускай мовы, у прыватнасці шэрага селекцыйных (спалучальнасных) значэнняў *(адчужальнасць // неадчужальнасць, партытыўнасць // непартытыўнасць, асертыўнасць // неасертыўнасць* і інш.). У кнізе характарызуюцца асноўныя спосабы выражэння селекцыйных значэнняў у беларускай мове. Вялікая ўвага аддаецца разгляду праблем сінтаксічнай аманіміі. Сінтаксісу беларускай мовы прысвечаны таксама раздзелы ў «Беларускай граматыцы» (ч. 2. Сінтаксіс. 1986) і шматлікія артыкулы вучонага.

Розныя аспекты вывучэння і апісання лексікі знайшлі адлюстраванне ў слоўніках, адным з укладальнікаў якіх быў А. Я. Міхневіч: «Слоўнік славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі» (т. 1—2. Прага, 1977—79), «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (т. 2, 1980), «Беларуска-рускі паралексічны слоўнік-даведнік» (1985), «Слоўнік мовы твораў Якуба Коласа» (рукапіс), «Адваротны слоўнік беларускай мовы» (рукапіс).

Значная колькасць прац вучонага прысвечана праблемам сацыяльнай лінгвістыкі, двухмоўя, параўнальнага даследавання моў, культуры мовы: «Функцыі мовы і маўлення і праблемы беларуска-рускага двухмоўя» (Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982); «Пра моўны і лінгвістычны статус «нацыялекта» (з А. А. Гіруцкім) (Варыятыўнасць як уласцівасць моўнай сістэмы. М., 1982); «Мова і ідэалогія» (Бел. лінгвістыка. Вып. 24—25. Мн., 1983—84); «Да характарыстыкі граматычнага ўзаемадзеяння блізкародных славянскіх моў» (Zeitschrift für Slawistik. 1985. Bd. 30, № 1); «Чалавек і яго мова» (Бел. мова і літ. ў школе. 1988. № 3); «Грамадства, мова, палітыка» (Мн., 1988, у сааўт.); «Руска-беларускі размоўнік» (1991) і інш.

Пытанні красамоўства даследаваліся А. Я. Міхневічам у працах «З гісторыі прамоўніцкага мастацтва» (1972), «Хрэстаматыя па лектарскаму майстэрству» (1978), «Прамоўніцкае майстэрства лектара» (1984), «Прамоўніцкае майстэрства лектара. Хрэстаматыя» (1986), «Аб красамоўстве жартам і ўсур'ёз» (1989) і многіх іншых.

А. Я. Міхневіч рэдактар шэрага лінгвістычных серый, зборнікаў, слоўнікаў: «Скарбы мовы», «Беларуская мова: Гісторыя і сучаснасць», «Бібліятэка настаўніка рускай мовы». Ён адзін з аўтараў (з Н. В. Вашчатынскай і Л. І. Шаўчэнка) падручніка «Беларуская мова» для 4-га класа, які вытрымаў 7 выданняў (Мн., 1978; 7 выд. 1988), а ў 1990 г. выйшаў як падручнік для 5-га класа.

За актыўны ўдзел у распаўсюджванні навуковых ведаў вучоны ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР (1982).

*Тв.:* Семантические дифференциальные признаки и структура предложения//Otázky slovenské syntaxe. Брно, 1968; Проблемы частей речи и типы словообразования//Вопросы теории частей речи. Л., 1968; О взаимодействии семантики и синтаксиса: Понятийная категория и ее языковое выражение//Филологические науки. 1969. № 6; Элементы трансфармацыйнага аналізу пры вывучэнні сінтаксісу//Нар. асвета. 1969. № 2; К характеристике номинативных предложений // Zeitschrift für Slawistik. 1969. № 5; Синтаксическая конденсация и типы полипредикативных структур; О проспекте новой польской грамматики//Тамсама. 1975. № 5—6; Нататкі аб методыцы вывучэння сінтаксічна рэлеватыўных уласцівасцей слова // Prace Komisji Słowianoznawstwa. 1971. № 23; Гісторыка-этымалагічныя нататкі // Бел. лінгвістыка. 1972. Вып. 1; Сінтаксічная перабудова падпарадкавальных словазлучэнняў у сказе (тэксце) // Тамсама. 1978. Вып. 13; Афарыстыка Якуба Коласа: (Да пастаноўкі праблемы) // Тамсама. 1983. Вып. 22; Белорусский язык для небелорусов. Мн., 1973 (з А. А. Крывіцкім, А. І. Падлужным); 2 выд., 1978; Сінтаксічная норма і кантамінацыя словазлучэнняў // Сучасная беларуская мова. Мн., 1973; Структура предложения и вторичные функции лексических значений // Монографии Сербской Академии наук и искусств. Отд. яз. и лит. М., 1974. Кн. 23; З праблематыкі семантыка-сінтаксічных катэгорый: Старонкі гісторыі пытання // Весці АН БССР. 1974. № 5; Структура предложения и вторичные функции лексических значений // Рэферати са заседања Међународне комисије за изучавање граматичке структуре словенских језика. Београд, 1974; Лекторское мастерство. Мн., 1975 (з Р. Н. Тартакоўскім, Г. І. Харошкам); Именные количественные словосочетания в белорусском языке на фоне болгарского // 5 Бюлетин за съпоставително изследване на българския




Працы А. Я. Міхневіча.

език с други езици. София, 1976; Адвербиальные определения *скора* и *хутка* в белорусском языке и синтаксическая конденсация // Заседание на комисията за анализ на граматичните структури на славянските езици при Международния комитет на славистите. Ч. 1. София, 1977; Залоговое значение взаимности и проблема «скрытой» грамматики: (На материале бел. языка) (з Л. А. Антанюк) // Проблемы теории грамматического залога. Л., 1978; Problémy jazykovej kultúry v Bielorusku // Spisovný jazyk a jazyková kultúra. Bratislava, 1978; Konfrontacia slovenčiny s bieloruštinou // Studia Academica Slovaca, 8. Bratislava, 1979; Синтаксическая омонимия и скрытая грамматика // Реферати од X заседание на меѓународната комисија за изучување на граматичката структура на словенските литературни јазици. Скопье, 1979; В глубь слова человеческого: Наука о языке и её разделы. Мн., 1982; Слово в его отношении к скрытограмматическим категориям // Studia gramatyczne. 1982, Nr 5; Сродкі размежавання відавых значэнняў у пісьмовым тэксце // Аспектуальные и темпоральные значения в славянских языках. М., 1983; Да характарыстыкі беларускай мовы ў яе сучасным стане // Slavia. 1984. № 3—4; Беларуская лінгвістычная тэрміналогія на іншаславянскім фоне // Славянская лингвистическая терминология. Киев, 1984; Граматычныя ідэі А. А. Патабні і праблематыка «скрытай» граматыкі // Наукова спадщина О. О. Потебні і сучасна філологія. Київ, 1985; Конструкции с предикатными актантами типа «глагол + инфинитив» в белорусском языке (з Л. А. Антанюк) // Типология конструкций с предикатными актантами. Л., 1985; Языковые потребности человека и общества // Рус. язык. Мн., 1985. Вып. 5; За композицията на лекцията // Лекционна пропаганда (София). 1986. № 9; Аб некаторых сінтаксічных цяжкасцях беларускай мовы // Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі. Мн., 1987; Язык, которого нет... Мн., 1988; Белорусский язык для говорящих по-русски. 3 изд. Мн., 1990 (з А. А. Крывіцкім, А. І. Падлужным). Вазьмі маё слова...: Нататкі аб лексічным узаемаўплыве бел. і рус. моў у кантэксце ўзаемадзеяння культур. Мн., 1990; О типах аналитических структур в белорусском языке // Вопросы словообразования и номинативной деривации в славянских языках. Ч. 1. Гродно, 1990; Першая беларуская граматыка для школ // Жывая спадчына. Мн., 1992; Англа-беларускі размоўнік (з Н. М. Навічэнка). Мн., 1992.

*Т. А. Меляшкевіч.*

## МОВА

Мова — найважнейшы сродак зносін паміж людзьмі. Дзеля таго каб існаваць, людзі павінны дамовіцца паміж сабою пра супольныя справы, размеркаванне абавязкаў, пра вызначэнне агульных планаў і г. д. Ажыццяўленне падобнага тыпу патрэб і дасягаецца пры дапамозе мовы. Мова ўзнікае з настойлівай патрэбы грамадства і ў грамадстве, гэта — сацыяльная (грамадская) з'ява. Галоўная функцыя мовы (гл. **Функцыі мовы**) быць сродкам зносін у грамадстве. Рэалізацыя гэтай функцыі адбываецца ў працэсе моўнай дзейнасці.

Для таго каб служыць сродкам зносін, мова павінна выказваць усё, што мы ведаем пра навакольны свет, грамадства і яго развіццё, пра сябе і нават пра саму мову. Таму ў моўных сродках замацоўваецца каласальная праца чалавецтва ў пазнанні свету. Так, у слове «пяць» замацавана і здольнасць чалавека лічыць прадметы і падзеі, і здольнасць адцягваць паняцце лічбы ад канкрэтных прадметаў, якія падлічваюцца (*пяць чалавек, пяць вагонаў, пяць гадоў*), і здольнасць ажыццяўляць з гэтымі адцягненымі лічбамі пэўныя аперацыі, напрыклад складанне ці ўзвядзенне ў ступень і г. д. Пазнанне свету працягвалася тысячагоддзі, і замацаванне ў мове вынікаў гэтай працы азначала ўкараненне адпаведных ведаў у свядомасць, быт. Таму мова не проста сродак зносін, але і помнік велізарнай духоўнай працы мінулых пакаленняў. Вывучаючы старажытную мову, мы можам даведацца пра жыццё народа паводле слоў, якія былі ў той старажытнай мове. Так, у праславянскай мове было больш за дзесятак назваў пеўчых птушак. Гэта значыць, што старажытныя славяне звярталі ўвагу на навакольны свет, на гукі, любілі птушыны спеў і, відаць, самі ахвотна спявалі: нездарма словы *pěti 'спяваць', *pěsnь/*pěsnja 'песня', *pěvьсь 'той, хто спявае, спявак, пеўчая птушка' належаць да праславянскага слоўніка.

Мова складаецца з вялікай колькасці адзінак і правіл іх спалучэння ў выказваннях. Адзінкі мовы і правілы спалучэння ўтвараюць сістэмы, гэта значыць упарадкаваныя сукупнасці, колькасць элементаў у якіх перавышае колькасць правіл, паводле якіх адбываецца ўпарадкаванне гэтых элементаў (гл. **Сістэмнасць мовы**). Сістэмы правіл і адзінак мовы цесна звязаныя паміж сабой: пэўнае правіла датычыць звычайна акрэсленага кола адзінак; пэўная адзінка падпарадкоўваецца пры спалучэнні пэўным правілам. Каб служыць перадачы інфармацыі ад аднаго чалавека да другога, мова павінна складацца з нейкіх матэрыяльных носьбітаў інфармацыі. Такімі носьбітамі інфармацыі з'яўляюцца моўныя знакі. Таму мова можа кваліфікавацца як знакавая сістэма асаблівага характару (гл. **Семіётыка**). Моўныя знакі маюць план зместу і план выражэння (гл. **План зместу і план выражэння**). Таму і адзінкі мовы суадносяцца з гэтымі паняццямі. Некаторыя адзінкі мовы і моўныя правілы належаць пераважна да плана выражэння, не маюць уласнага зместу, значэння, а толькі служаць для адрознення значэнняў адзінак іншага ўзроўню. Так, фанемы — гэта адзінкі плана выражэння, якія дазваляюць носьбітам мовы адрозніваць адзін знак ці сукупнасць знакаў, што валодаюць зместам, ад другога. Іншыя моўныя адзінкі выяўляюць пэўныя фрагменты плана зместу (маючы пры гэтым і нейкі план выражэння); такія адзінкі і разглядаюцца як моўныя знакі. Да іх належаць словы, якія існуюць аўтаномна, марфемы (суфіксы, прыстаўкі, карані), што звычайна ўжываюцца ў складзе адзінак вышэйшага ўзроўню — слоў, фразеалагізмы — спалучэнні слоў, якія маюць адносна непадзельнае значэнне і наогул аўтаномны характар. Некаторыя моўныя адзінкі маюць у гэтых адносінах пераходны характар, напрыклад інтанацыя заўсёды накладваецца на некаторыя сукупнасці слоў або на адзінкавае слова, якое ўтварае сказ ці яго адносна закончаную частку. Аўтаномна інтанацыя не можа існаваць (хоць магчыма вымаўленне некаторай бессэнсоўнай групы гукаў з пэўнай інтанацыяй, што часам выкарыстоўваюць эстрадныя выканаўцы), але разам з тым у шэрагу выпадкаў сувязь інтанацыі з пэўным зместам бясспрэчная.

Слова «мова» выкарыстоўваецца і для абазначэння найважнейшага сродку людскіх зносін, і для абазначэння сродку зносін пэўнай, звычайна этнічнай, групы людзей: беларуская мова, руская мова, мова беларускіх татараў, англійская мова і г. д. Такія канкрэтныя мовы (французская, літоўская, цыганская і г. д.) можна лічыць формай існавання агульначалавечай мовы, якая можа разглядацца як навуковая абстракцыя. На свеце існуе некалькі тысяч моў. Кожная з іх — вынік працы шматлікіх пакаленняў, часцінка таго стэрэаскапічнага погляду на свет, які належыць усяму чалавецтву ў сукупнасці. У адной мове людзі лепей адлюстравалі асаблівасці снегу, таму што іх продкі жылі ў тундры на працягу стагоддзяў і адрозненне гэта было вельмі важным для жыцця, у некаторых арабскіх дыялектах жыхароў пустыні шмат назваў для пяску, у трэцяга народа — падрабязная моўная класіфікацыя дажджу. Некаторыя мовы маюць багатую, старанна распрацаваную навукова-тэхнічную тэрміналогію, у іншых такога багацця няма, але заўсёды мова адпавядае надзённым патрэбам народа — яе носьбіта і творцы. А разам мовы народаў свету складаюць шматгранную, амаль невычарпальную скарбніцу ведаў чалавецтва. Кожная мова абслугоўвае пэўны калектыў, але заўсёды даводзілася людзям уступаць у кантакты з суседзямі, а часам і з больш далёкімі калектывамі. Прадстаўнікі аднаго племені авалодвалі не толькі сваёй роднай мовай, але і мовай іншага племені. У пэўных умовах гэта датычылася ўжо не асобных людзей, а значных груп, нават цэлых моўных калектываў, якія жылі побач ці ўперамешку з іншамоўным калектывам. У такіх выпадках мы гаворым

пра моўныя кантакты, у выніку якіх магчыма замена адной мовы на другую ці ўзнікненне новай, змешанай, мовы. Рассяленне пэўнага не вельмі кансалідаванага моўнага калектыву можа прывесці да ўзнікнення на аснове адной мовы дзвюх ці некалькіх новых моў, гэта значыць да дыферэнцыяцыі моў (так, з адносна адзінай старажытнарускай мовы ўзніклі руская, беларуская і ўкраінская мовы). Ва ўмовах сумеснага пражывання на адной тэрыторыі, цесных сувязей паміж мовамі такіх калектываў не выключаецца і інтэграцыя моў, утварэнне адзінай мовы на месцы папярэдніх некалькіх моў. Часцей пры гэтым адна з кантактуючых моў *становіцца асновай, на* якую ўздзейнічаюць у той ці іншай меры астатнія мовы. Напрыклад, асновай сучаснай румынскай мовы стала народная лацінская мова, якая ўвабрала ў свой слоўнік шматлікія славянскія элементы, а таксама спазнала ўплыў іншых балканскіх моў.

Тэрмін «мова» дастасоўваецца не толькі да мовы чалавека наогул, не толькі да мовы пэўных калектываў, але і да мовы асобнага чалавека — індывіда. У гэтым сэнсе можна сказаць «мова Янкі Купалы», «мова Л. Талстога» ці «мова Шэкспіра». У такім выпадку гутарка ідзе пра тое, як у тэкстах, якія стварае пэўны чалавек, адлюстроўваюцца не толькі агульначалавечыя моўныя заканамернасці, не толькі асаблівасці дадзенай канкрэтнай нацыянальнай мовы ці мовы племені, але і індывідуальныя асаблівасці. Да разумення агульных заканамернасцей мовы мы ідзём праз спасцiжэнне мовы асобных індывідаў. Напрыклад, вывучаючы, як у дзіцяці адбываецца станаўленне мовы, аналізуючы асаблівасці яго ў розных дзяцей, мы можам атрымаць уяўленне аб працэсе авалодання мовай наогул. Першыя словы дзіцяці маюць нерасчлянёны, сінкрэтычны характар. Выгук «ма!» — гэта часта не толькі назва маці, але і патрабаванне ежы ці просьба ўзяць на рукі. Потым адбываецца расчляненне значэнняў асобных слоў, узнікаюць просценькія сказы і г. д.

Побач з натуральнай гукавой мовай людзі карыстаюцца некаторымі дапаможнымі сродкамі зносін, якія таксама называюць мовамі. Мова жэстаў (гл. **Мова жэстаў**) — гэта сістэма дадатковых сігналаў рухамі частак цела: выцягнутая рука ўказвае на кірунак, нахіленне галавы азначае ў нас згоду, а пакручванне галавой у бакі — адмову (у *балгараў — наадварот*). У пэўных выпадках, абумоўленых рытуаламі ці абставінамі (неабходнасць захаваць цішыню, няведанне мовы і пад.), мова жэстаў можа іграць павышаную ролю ці нават быць асноўным сродкам зносін. Назіранні над развіццём дзіцяці і светам жывёл даюць некаторыя падставы для гіпотэзы пра першаснае прызначэнне мовы жэстаў для перадачы інфармацый, а гукавой мовы — эмоцый. Мова кветак — гэта ўмоўны дадатковы сродак перадачы пэўнай (зместава абмежаванай) інфармацыі: чырвоныя ружы могуць, напрыклад, абазначаць каханне, а жоўтыя кветкі — здраду ці хваробу. У гэтым сэнсе мовамі можна назваць і іншыя сістэмы знакаў, напрыклад знакі дарожнага руху. Мовамі называюць і штучныя алгарытмічныя сістэмы, якія выкарыстоўваюцца для зносін паміж чалавекам і машынай для аўтаматычнай перапрацоўкі дадзеных. Звычайна ўсе такія мовы маюць абмежаваны слоўнік і прымітыўную граматыку, абмежаваная і сфера іх ужывання; як правіла, яны *пазбаўлены самаразвіцця*. У параўнанні з натуральнай гукавой мовай універсальнага пашырэння і бязмежных магчымасцей выражэння і развіцця, гэтыя мовы маюць відавочна дапаможны характар. Словам «мова» часам абазначаюць своеасаблівыя сістэмы выразных сродкаў. Мова кіно, напрыклад, уключае кампазіцыю кадра, мантаж эпізодаў і г. д. Гавораць пра мову лічбаў, мову геаграфічнай карты. У гэтых выпадках слова «мова» выкарыстоўваецца ў пераносным сэнсе. Асобна трэба сказаць пра мовы жывёл: пчол, дэльфінаў, малпаў і да іх падобных. Гэтыя мовы ў асноўным перадаюцца генетычна і вельмі абмежаваныя ў перадачы з'яў навакольнага свету. У адрозненне ад знакавых сістэм жывёл, напрыклад квахтання курыцы ці «танцаў» пчол, якімі яны абвяшчаюць пра кірунак, у якім можна ляцець па мёд, мова не перадаецца ў спадчыну, а вывучаецца. Перадаецца ў спадчыну толькі здольнасць авалодаць мовай (так званая моўная кампетэнцыя), а засваенне той ці іншай мовы залежыць ад таго, на якой мове размаўляюць у пэўным асяроддзі. Такім чынам, мова — адно з важных адрозненняў чалавека ад іншых жывых істот.

У працэсе свайго функцыяніравання мова дастасоўваецца да перадачы ўсяго таго, што патрэбна калектыву яе носьбітаў. Патрэбнасці носьбітаў мовы залежаць ад розных умоў жыцця, эканомікі, ступені развіцця духоўнай культуры, яны змяняюцца. Змяняецца ў адпаведнасці з імі і мова. У гэтым сэнсе мову можна разглядаць як кібернетычную сістэму, якая няспынна функцыяніруе і самарэгулюецца. У мове ўзнікаюць новыя словы, фразеалагічныя адзінкі, новыя граматычныя сродкі. Адбываюцца і змены, *пра якія нельга сказаць, што яны* накіраваны на ўдасканаленне мовы. Так, у старажытнарускай мове існаваў гук [ѣ], які потым у беларускай і рускай мовах змяніўся на [е], а ва ўкраінскай мове — на [і]; ацаніць гэту змену як крок да паляпшэння плана выражэння мовы ці, наадварот, як з'яву адмоўную цяжка, нават немагчыма. Зменлівасць (дынамічнасць) — адна з характэрных рыс мовы. Сутнасць яе ў пастаянным прыстасоўванні да патрэб грамадства і ў флуктуацыях, першасна нязначных, выпадковых зменах, якія могуць прывесці да значных перамен у выніку ўзаемадзеяння ўнутраных фактараў развіцця мовы. Моўныя з'явы, разглядаемыя ў пэўны перыяд, складаюць сінхранічны (адначасовы) зрэз, сінхранію; разгляд жа змен моўных з'яў дае ўяўленне пра дыяхранію, дыяхранічны (розначасовы) разрэз. Бясконцая колькасць сінхраній утварае дыяхранію (гл. **Мовазнаўства**). Карыстаючыся матэматычным тэрмінам, можна сказаць: дыяхранія — гэта інтэграл сінхраній.

Мова — гэта істотная адзнака этнічнага калектыву — народа, нацыі, племені. У тыповым выпадку мова народа, з аднаго боку, аб'ядноўвае прадстаўнікоў дадзенага народа, а з другога — з'яўляецца адметнай адзнакай. *Але на практыцы* нярэдка *адной* мовай карыстаюцца прадстаўнікі некалькіх этнічных калектываў: нямецкая мова — родная для немцаў, аўстрыйцаў, для значнай часткі насельніцтва Швейцарыі і Люксембурга; англійская мова — родная для англічан і амерыканцаў, а таксама для насельніцтва былых калоній і даміньёнаў Вялікабрытаніі; беларуская мова — родная не толькі для беларусаў, але і для прадстаўнікоў іншых народаў, якія даўно жывуць на Беларусі, напрыклад беларускіх татараў, яўрэяў і інш. Разам з тым, напрыклад, швейцарцы, якія карыстаюцца чатырма мовамі (нямецкай, французскай, італьянскай і рэтараманскай), зліваюцца ў выніку працяглага сумеснага *пражывання ў адзіную нацыю*. Трэба адзначыць, што ёсць значная колькасць беларусаў, якія жывуць у розных мясцінах, некампактна; за некалькі пакаленняў яны забылі беларускую мову, роднай мовай стала для іх іншая, напрыклад руская мова, але яны адчуваюць сябе беларусамі. Гэта датычыць у сучасным свеце практычна ўсіх народаў:і сітуацыя «адна мова — адзін народ» з'яўляецца тыповай хутчэй у ідэале, чым на практыцы. Але разам з тым мова адчуваецца найбольш каштоўным скарбам народа, яго відавочнай адзнакай; пачуццё адзінства мовы — адзін з асноўных кампанентаў нацыянальнай свядомасці. Менавіта праз родную мову адбываецца для кожнага чалавека знаёмства са светам, праз матчыну мову чалавек становіцца членам першаснага калектыву, у якім ён жыве, праз родную мову ажыццяўляецца непарыўная сувязь чалавека са сваім народам. Разам з тым родная мова — гэта велізарны ўклад кожнага народа ў скарбніцу агульначалавечай культуры. І таму клопат пра родную мову, пра яе развіццё і пашырэнне

побач з глыбокай павагай да моў усіх іншых народаў, вялікіх і маленькіх — не толькі элементарная адзнака высокай культуры, але і высакародны абавязак кожнага носьбіта мовы, кожнага члена грамадства, кожнага чалавека.

*Літ:* Реформатский А. А. Введение в языковедение. 4 изд. М., 1967; Маслов Ю. С. Введение в языкознание. 2 изд. М., 1987; Рагаўцоў В. І., Юрэвіч А. Л. Уводзіны ў мовазнаўства. Мн., 1987; Супрун А. Е. Лекции по языкознанию. Мн., 1971; Яго ж. Лекции по языковедению. Мн., 1978; Яго ж. Лекции по лингвистике. Мн., 1980; Введение в языкознание: Хрестоматия. 2 изд. Мн., 1984. Михневич А. Е. Язык, которого нет... Мн., 1988; Норман Б. Ю. Язык: знакомый незнакомец. Мн., 1987; Яго ж. Лингвистика каждого дня. Мн., 1991.

*А. Я. Супрун.*

## МОВА ЖЭСТАЎ

Мова жэстаў — гэта сістэма жэстаў і рухаў цела, якія выкарыстоўваюцца ў якасці сродку зносін: або побач з гукавым маўленнем (у звычайных бытавых зносінах), або ўзамен гукавой мовы ў спецыфічных сітуацыях (у зносінах глуханямых, у мастацтве, спорце, ваеннай справе, рэлігіі і г. д.). Навука, якая займаецца вывучэннем сукупнасці жэстаў, што выкарыстоўваюцца ў зносінах паміж людзьмі, называецца кінесікай (ад грэч. kinēsis рух). Таму мова жэстаў мае яшчэ назву кінетычнай мовы. Што ж такое жэсты?

Жэсты (ад лацінскага gestus рух цела) — гэта больш або менш размежаваныя, камунікатыўна значымыя рухі чалавека: твару — міміка, усяго цела — пантаміміка, рук і кісцей рук — жэстыкуляцыя. Але не кожны рух цела з'яўляецца жэстам. Жэсты набываюць пэўнае значэнне і могуць стаць зразумелымі толькі ў сувязі з мовай, маўленнем, моўнымі зносінамі людзей. У такіх выпадках жэсты, як і інтанацыя, утвараюць дадатковы (паралінгвістычны) канал перадачы інфармацыі, асноўным жа застаецца канал лінгвістычны — семантыка слоў, сказаў, тэкстаў. Вядома, тут выраз «мова жэстаў» мае метафарычны характар, як і ў спалучэннях «мова кветак», «мова мімікі», «мова танцаў».

Вылучаюцца жэсты інтэрнацыянальныя (міжнацыянальныя), нацыянальныя, групавыя і індывідуальныя. Паводле функцый жэсты дзеляцца на ўказальныя, выяўленчыя, сімвалічныя, жэсты-рэплікі, эмацыянальна-экспрэсіўныя і інш., а таксама механічныя, г. зн. пазбаўленыя акрэсленых функцый. Жэсты характарызуюцца вялікай разнастайнасцю і здольнасцю набываць і змяняць умоўнае значэнне, цесна звязаны з асаблівасцямі нацыянальнага характару, нацыянальнай культуры, мовы, этыкету, сацыяльнага ладу. Таму ў кожным грамадстве існуюць свае традыцыі (няпісаныя правілы) жэстыкуляцыі. Тое, як вітаюцца людзі, залежыць не толькі ад нацыянальных асаблівасцей, але і ад грамадскіх адносін. Са скончэннем эпохі феадалізму ў Еўропе зніклі і яго цырымонныя, лісліва-ўгодлівыя паклоны і на змену ім прыйшло дэмакратычнае пацісканне рук, якое як бы сімвалізавала роўнасць людзей. Але пазней гэты жэст нярэдка пад уплывам сацыяльных фактараў дэфармаваўся, ператварыўся ў «пацісканне пальцаў», што адлюстроўвала рознае становішча людзей на сацыяльнай лесвіцы.

Жэсты звычайна суправаджаюць тыя адрэзкі маўлення, у тым ліку і публічнага, аратарскага, калі думка або пачуццё дасягаюць кульмінацыі. Асноўныя правілы жэстыкуляцыі прамоўцы наступныя: не трэба прыдумваць жэсты, бо жэстыкуляцыя — гэта акт міжвольны, нязмушаны; не варта жэстыкуляваць без перапынку; жэсты павінны быць разнастайнымі, паколькі розныя словы і пачуцці патрабуюць і рознага жэставага падкрэслівання, і адпавядаць зместу сказанага; забараняюцца неэтычныя, грубыя жэсты; найважнейшая якасць жэстыкуляцыі — стрыманасць. Усе гэтыя і падобныя правілы ўваходзяць у нацыянальны этыкет і складаюць неад'емную частку культуры моўных зносін, нацыянальнай культуры ўвогуле.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| А | Б | В | Г | Д | Е |
| Ж | З | І | Й | К | Л |
| М | Н | О | П | Р | С |
| Т | У | Ф | Х | Ц | Ч |
| Ш | Ь | Ы | Э | Ю | Я |

Азбука глуханямых.

Есць сітуацыі, калі спецыяльна вынайдзеныя жэсты ўтвараюць паралель да гукавой мовы. У такіх выпадках выраз «мова жэстаў» мае строга навуковае тэрміналагічнае значэнне. Сапраўдныя мовы жэстаў выкарыстоўваюцца тады, калі зносіны маюць пастаянны характар, але ў іх не могуць быць выкарыстаны ні гукавая мова наогул, ні адна з канкрэтных натуральных моў. Разгледзім некаторыя з такіх спецыяльных моў жэстаў.

У марской і рачной справе для падачы сігналаў караблям выкарыстоўваецца так званая семафорная азбука. Яна складаецца з літар, кожная з якіх абазначаецца пэўным становішчам рук сігнальшчыка, які пры гэтым трымае яшчэ ў руках сцяжкі. Цікава, што для невялікай часткі літар (А, Т, У, Г, К) становішча рук як бы капіруе іх форму.

Спецыяльныя сістэмы жэстаў выкарыстоўваюцца суддзямі розных спартыўных гульняў — футбола, хакея, валейбола, а таксама бокса і г. д. Але гэтыя сістэмы ўжо не літарныя. Жэстамі тут перадаюцца цэлыя фразы.

Некаторыя людзі не могуць карыстацца гукавой мовай з-за глуханематы, яны вымушаны размаўляць жэстамі. Для гэтага створана спецыяльная азбука. У нашай краіне прынята сістэма, якая дазваляе абменьвацца думкамі з такой жа хуткасцю, як і ў звычайных, гукавых, размовах.

Да мовы жэстаў людзі былі вымушаны звяртацца і ў тых выпадках, калі субяседнікі або не разумелі адзін аднаго (мова жэстаў жыхароў Камеруна, якія гавораць на некалькіх розных мовах; кінетычная мова разнапляменных паўночнаамерыканскіх індзейцаў, што ўзнікла з аналагічнай прычыны), або далі абяцанне маўчаць (як манахі-трапісты адной з каталіцкіх сект у Францыі).

Некаторыя вучоныя, у т. л. і беларускія, вылучаюць так званыя гукавыя жэсты, роля якіх у маўленні аналагічная ролі жэстаў, што капіруюць з'явы знешняга свету. У гэтым сэнсе гукавымі з'яўляюцца гукапераймальныя словы *бах, дзын, топтоп, вытылінгваць, мяўкаць, грукат, тарахценне* і падобныя і наогул усе анаматапаэтычныя адзінкі мовы. Яны шырока выкарыстоўваюцца як у гутарковым маўленні, так і ў мастацкіх тэкстах, каб надаць зносінам жывасць, выразнасць. Патрабуюць жэставай падтрымкі, удакладнення жэстам разнастайныя ўказальныя словы (*вось, там, туды, той* і інш.). Паколькі жэсты цесна звязаны з маналагічным і дыялагічным маўленнем, дзеясловы, якімі абазначаюць жэсты [*кіўнуць, адвярнуцца, усміхнуцца, кінуць* (слова), *пакруціць* (галавой), *махнуць* (рукой), *працягнуць* (руку), *паморшчыцца* і інш.], здольны ўжывацца ў функцыі слоў, якімі ў тэкст уводзіцца простая мова: *сказаць, адказаць, спытаць, крыкнуць, паклікаць, прашаптаць, заўважыць, прапанаваць, падумаць* і інш. Напрыклад: — *Ну што ж,— **пацiснуў плячыма** Гейс.— Калі нічога больш не застаецца рабіць...* (Я. Маўр); ***Кіўнуўшы** на хаду: «Піва»,— прайшоў у залу* (П. Пестрак); — *Хто такая? — **ускінуў галаву** Андрэй* (У. Караткевіч).

Шматпланавая сувязь жэстаў з мовай і рознымі відамі мастацтва слова — прозай, драматургіяй, мастацкім чытаннем, паэзіяй. Маўленча-жэставыя паводзіны чалавека з'яўляюцца аб'ектам адлюстравання ў рэалістычнай літаратуры, а іх узнаўленне на сцэне ці апісанне ў прозе служыць сродкам стварэння мастацкага вобраза. Яскравы прыклад гэтага жэсты (хапанне за дзягу) Сцяпана Крыніцкага («Паўлінка» Я. Купалы) у выкананні У. І. Дзядзюшкі, жэсты, што суправаджаліся словамі «каханенькая-родненькая» і пагрозлівай інтанацыяй.

Для ўзнаўлення жэстаў у мастацкім творы ўжываецца жэставая лексіка: *Старшыня камісіі кісла **паморшчыўся** і, **павярнуўшыся** за сталом, **да яго:** — А вы, таварыш, карацей ды бліжэй да справы. Чалавек **сагнаў усмешку** з твару, рашуча **прайшоўся рукой уніз па** шаўковых **вусах, учапіўшы** і **зморшчыўшы** ніжнюю **губу, кіўнуў галавою** — што ж, карацей, дык карацей, калі з гэтымі старшынямі ніякага, можна сказаць, разгарнення* (М. Лынькоў).

Мова жэстаў уласціва п а н т а м і м е — віду сцэнічнага мастацтва, дзе пластыка цела акцёра, яго жэстыкуляцыя і міміка служаць сродкам стварэння мастацкага вобраза і раскрыцця зместу твора. Пантаміма з'яўляецца адным з асноўных элементаў у балеце і шырока выкарыстоўваецца ў цырку, напрыклад у клаунадзе.

Жэсты, якімі суправаджаюцца бытавыя зносіны, незвычайна разнастайныя. Складанне больш-менш вычарпальнага рэестра жэстаў, уласцівых носьбітам пэўнай нацыянальнай мовы (напрыклад, беларускай), пастаўлена ўжо навукай на парадак дня. Але пакуль такіх рэестраў няма.

*Літ.:* К о л ш а н с к и й Г. В. Паралингвистика. М., 1974; К а п а н а д з е Л. А., К р а с и л ь н и к о в а Е. В. Жест в разговорной речи // Русская разговорная речь. М., 1973; Н и к о л а е в а Т. М. Невербальные средства человеческой коммуникации и их место в преподавании языка // Роль и место страноведения в практике преподавания русского языка как иностранного. М., 1969; Н и к о л а е в а Т. М. Жест и мимика в лекции. М., 1972; Ш е л г у н о в а Л. М. Указания на рече-жестовое поведение персонажей как средство создания образа в русской повествовательной реалистической художественной прозе. Волгоград, 1979. *А. Я. Міхневіч.*



# МОВА І ГРАМАДСТВА

Мова як асобны аб'ект навуковага даследавання можа разглядацца двface: «знутры» і «звонку». У першым выпадку яна вывучаецца ўнутранай, ці структурнай, лінгвістыкай як адносна самастойная і замкнёная сістэма гукавых і сэнсавых адзінак. У другім выпадку даследчыкаў цікавяць сацыяльныя заканамернасці ўзнікнення і існавання мовы, аналіз функцый мовы ў грамадстве, адлюстраванне сацыяльных працэсаў у сістэмнаструктурнай, унутранай арганізацыі мовы. Такі падыход разглядае знешняя, ці сацыяльная, лінгвістыка, або сацыялінгвістыка (гл. **Сацыяльная лінгвістыка**).

Сацыяльны (лац. socialis) у перакладзе значыць «грамадскі». Таму праблема «мова і грамадства» ўключае і змест сацыяльнай лінгвістыкі як навукі, і сутнасць сацыялагічнага падыходу да мовы. Неабходнасць такога падыходу да мовы ўсведамлялася ў навуцы ўжо даўно. На пачатку нашага стагоддзя адзін з заснавальнікаў сацыялагічнага кірунку ў мовазнаўстве французскі лінгвіст Антуан Мее сцвярджаў, што зразумець мову «можна толькі з улікам яе сацыяльнай прыроды». Сёння можна сказаць, што дакладнае размежаванне структурнага (унутранага) і сацыяльнага (знешняга) аспектаў вывучэння мовы — гэта дасягненне мовазнаўчай навукі 20 ст. Менавіта ў гэты час былі пастаўлены і прааналізаваны шматлікія пытанні сувязі мовы з разнастайнымі праявамі грамадскага жыцця: палітыкай і эканомікай, сацыяльнымі рухамі і нацыянальнай самасвядомасцю, культурай і традыцыямі, міжнацыянальнымі і міждзяржаўнымі кантактамі, навукова-тэхнічным прагрэсам і экалогіяй.

У межах агульнай праблемы «мова і грамадства» можна вылучыць некалькі істотных, канкрэтных сацыялінгвістычных праблем: мова як грамадская з'ява, структура мовы і структура грамадства, моўныя патрэбы асобы і грамадства, сацыяльныя функцыі мовы і маўлення, формы існавання мовы, мова і культура, мова і ідэалогія, нацыянальна-моўная палітыка дзяржаў, народы і мовы свету і інш. Паколькі многія з гэтых праблем або асобныя іх аспекты асветлены ў іншых артыкулах (гл. **Двухмоўе, Літаратурная мова, Народы і мовы свету, Функцыі мовы**), тут увага будзе скіравана на пытанні: грамадская сутнасць мовы, моўныя патрэбы асобы і грамадства, роля роднай мовы ў нацыянальным развіцці.

Агульнавядома, што мова з'яўляецца сродкам зносін (камунікацыі) паміж людзьмі, зносін як найважней-

шай умовы і істотнага кампанента працы, пазнання навакольнага свету і арыентацыі чалавека ў ім. Дапаможным сродкам зносін можа стаць любы элемент рэчаіснасці, але толькі пры ўмове, што ён так ці інакш узаемадзейнічае з мовай, яе функцыяніраваннем (параўнаем, напрыклад, выпадковы рух цела і камунікацыйна значны жэст). У сукупнасці сродкаў, што абслугоўваюць камунікацыйную дзейнасць людзей, мова — найгалоўнейшы сродак.

Грамадскае прызначэнне мовы рэалізуецца і раскрываецца праз яе сацыяльныя функцыі. Разуменне гэтага дазваляе падысці да пытання пра моўныя патрэбы чалавека і грамадства. Сучаснае грамадства дазваляе чалавеку і нават прымушае яго ўключацца ў вялікую колькасць відаў зносін. Яны патрабуюць адпаведнай колькасці моў. Знешнія зносіны нацыі вымагаюць не адной мовы (напрыклад, роднай і адной ці некалькіх іншанацыянальных). Не абмяжоўваюцца адной мовай і зносіны ўнутрынацыянальныя. Унутраная складанасць зносін у сучасным грамадстве адлюстроўваецца, у прыватнасці, у шматзначным ужыванні слова *мова*: мова родная і чужая, літаратурная і дыялектная, нацыянальная і міжнацыянальная, паэтычная і машынная, мова пісьменніка і мова вуліцы, музыкі і жывапісу, навукі і канцылярыі і г. д.

Патрэбныя чалавеку мовы — не простая сукупнасць разнастайных сродкаў зносін, а пэўная сістэма моў розных тыпаў. На кожным грамадска-гістарычным этапе яна адлюстроўвае развітасць унутраных і знешніх сувязей сям'і, нацыі, народа, краіны і накіроўвае асобу, памагае ёй авалодаць духоўнымі багаццямі грамадства, яго культурай. Спроба аб'ектыўна акрэсліць грамадскі ідэал развітай у моўных адносінах асобы вядзе да вылучэння, прынамсі, наступных відаў канкрэтных моўных патрэб, цесна звязаных з кантэкстам сучаснай культуры грамадства.

Па-першае, гэта патрэба ў чалавечай мове як сродку ператварэння біялагічнай істоты чалавека ў істоту сацыяльную. Мова маці, мова сям'і, мова першаснага асяроддзя, незалежна ад яе этнічнай або сацыяльнай адметнасці ўвасабляюць другую сігнальную сістэму і даюць магчымасць дзіцяці стаць асобай, далучыцца да роду чалавечага. Патрэба гэта самая жыццёвая з усіх відаў чалавечых патрэб. З ёю ў вялікай ступені звязана інтэлектуальнае развіццё асобы.

Па-другое, патрэба ў этнамове, мове роднай, нацыянальнай, у форме якой толькі і можа рэалізавацца і існаваць чалавечая мова.

Па-трэцяе, патрэба ў мове (або мовах) міжнацыянальных зносін у шматнацыянальным грамадстве ці арганізацыях.

Па-чацвёртае, патрэба ў сацыяльных дыялектах, што існуюць у межах нацыянальных моў. Гэта прафесійныя мовы, мовы навукі, спецыфічныя «падмовы» культуры (фальклор, узроставыя і прафесійныя жаргоны, навуковая і палітычная прапаганда і г. д.). Усе гэтыя «падмовы» спатрэбяцца, вядома, далёка не кожнаму.

Па-пятае, патрэба ў разнастайных замежных мовах. Веданне замежных моў пашырае кругагляд асобы, забяспечвае разнастайныя інтэрнацыянальныя зносіны, азнаямленне з вопытам іншых народаў і дасягненнямі іх культуры.

Па-шостае, патрэба ў фармалізаваных мовах, што забяспечваюць чалавеку доступ да ЭВМ, складанай сучаснай тэхнікі, а значыць, і да актыўнага, свядомага, прадуктыўнага выкарыстання самай разнастайнай інфармацыі ў сферах сучаснай вытворчасці, навуковых даследаванняў, навучання і адукацыі, кіраўніцкай дзейнасці, прагназіравання сацыяльных падзей.

Па-сёмае, патрэба ў так званых другасных мадэлюючых сістэмах — мовах музыкі, кіно, жывапісу, архітэктуры і іншых мастацтваў, г. зн. разнастайных вынайдзеных людзьмі знакавых сістэмах, прызначэнне якіх — забяспечыць удзел асобы ў духоўна-культурным развіцці грамадства, яго маральнай і мастацкай эвалюцыі.

Нарэшце, існуе і грамадская патрэба ў агульналінгвістычнай адукаванасці. Веданне тэарэтычных асноў мовазнаўства (як і асноў фізікі, біялогіі і г. д.) — адзін з фактараў выпрацоўкі навуковага светапогляду.

Аддаючы належнае ўсім відам моўнай адукацыі і моўнага выхавання чалавека, усёй мнагаграннасці моўных патрэб грамадства і асобы, трэба асабліва вылучыць як адну з найбольш значных патрэбу ў этнамове. З першых дзён свайго жыцця індывідуум пачынае авалодваць грамадска-гістарычным вопытам чалавецтва ў той канкрэтнай форме, якую забяспечвае яму першая — родная — мова. Паўнацэннае валоданне роднай мовай — гэта не што іншае, як валоданне сацыяльнымі, інтэлектуальнымі, маральнымі, эстэтычнымі і іншымі каштоўнасцямі, якія выпрацаваны і вербальна — з дапамогай слова і ў самім слове — замацаваны ў пэўным моўным асяроддзі і якія ў канкрэтнай нацыянальнай форме адлюстроўваюць духоўны набытак чалавецтва. Родная мова засвойваецца ва ўсіх асноўных формах яе бытавання (літаратурная мова і яе функцыянальна-стылістычныя разнавіднасці) і звязаных з імі жанрах вуснага і пісьмовага маўлення на роднай, нацыянальнай мове. Авалоданне нацыянальнай мовай — неабходная перадумова сацыялізацыі асобы, фарміравання яе самасвядомасці, далейшага ўваходжання ў шматнацыянальны свет, у шматмоўную сістэму міжнароднай камунікацыі. На практыцы адносіны грамадства да нацыянальнай мовы пад уплывам розных гістарычных, эканамічных і палітычных фактараў могуць дэфармавацца: зніжаецца нацыянальная самасвядомасць, родная мова пачынае выцясняцца мовай міжнацыянальных зносін і г. д. Так, на жаль, адбылося і на Беларусі. Тады ўзнікае неабходнасць у заканадаўчым рэгуляванні моўнага жыцця грамадства. Менавіта такім свядомым рэгуляваннем і з'яўляецца «Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб мовах у Беларускай ССР», прыняты яе Вярхоўным Саветам 26 студзеня 1990 г. У прэамбуле да Закона гаворыцца: «Гонар і абавязак усіх — шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і росквіту, паважліва ставіцца да моў іншых народаў».

*Літ.:* Новое в лингвистике. Вып. 7. Социолингвистика. М., 1975; Міхневіч А. Я. Функцыі мовы і маўлення і праблемы беларуска-рускага двухмоўя // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Мечковская Н. Б. Язык и общество // Общее языкознание. Мн., 1983; Онтология языка как общественного явления. М., 1983; Лукашанец А. А., Михневич А. Е., Щербин В. К. Общество — язык — политика. Мн., 1988. *А. Я. Міхневіч.*

## МОВА І КУЛЬТУРА

Культура ёсць духоўны змест людской жыццядзейнасці, сацыяльнай арганізацыі і пазнання, якія выяўляюцца ў нацыянальна самабытных тыпах эканомікі, правасвядомасці, мастацтва, рэлігіі, тэарэтычных і практычных ведаў, асвечаных культам і маральнымі імператывамі. Чалавек — яе стваральнік і адначасова аб'ект яе духоўна-практычнага ўздзеяння. Мова як сродак камунікацыі і мыслення ёсць адносна аўтаномная частка культуры, г. зн. такі яе складнік, без якога немагчыма ўся «сума» культуры. Мова разам з працай, творчасцю і мысленнем — гэта ўзаемаабумоўленыя атрыбуты культуры, яе сутнасныя прыкметы. Дзве асноўныя і ўзаемазвязаныя функцыі мовы — намінатыўная і інфарматыўна-камунікатыўная — забяспечваюць пазнанне, грамадскую практыку і пераемнасць у развіцці культуры: у найменні рэчаў і дзеянняў, іх «імёнах» фіксуецца ўся разнастайнасць пазнання прыроды, грамадскай практыкі і ўнутранага свету чалавека, шматграннасць яго духоўнага і практычнага жыцця. У сваю чаргу, грамадскія зносіны забяспечваюць абмен вопытам паміж людзьмі і пакаленнямі, іх сацыяльна-эканамічную і духоўна-творчую дзей-

насць. У чалавечым маўленні, у вобразах, сімвалах і паняццях мовы, у структурных узаемасувязях паміж яе падсістэмамі і элементамі фіксуецца ўся жыццядзейнасць чалавечага грамадства, увасобленая ў яго культуры. Пераемнасць у гістарычным развіцці культуры забяспечваецца праз мову непасрэдна (літаратурныя і навуковыя тэксты, тэхналагічныя апісанні і інш.) і апасродкавана — праз тэарэтычную, эстэтычную і філасофскую інтэрпрэтацыю культурнай спадчыны. Суадносіны паміж мовай і культурай у іх гістарычным развіцці неадназначныя і супярэчлівыя, асабліва на той стадыі культуры, калі яна пераходзіць у навукова-тэхнічную цывілізацыю урбаністычнага тыпу.

На першым этапе першапачатковай культурнай прасторы (дапісьмовы перыяд культуры) адбываецца інтэнсіўны працэс моватворчасці, народная мова нясе на сабе прыкметы шматлікіх міфаў. Міфалогія і мова, а пазней створаныя шляхам іх мастацкага пераасэнсавання разнастайныя роды і жанры фальклору — асноўныя формы духоўнай культуры гэтага досвітку чалавечага самапазнання. З узнікненнем пісьменства, а пазней яго дыферэнцыяцыі ў адпаведнасці з разнастайнымі грамадскімі функцыямі (паэзія, мастацкая, аратарская, навуковая, дзелавая і інш. празаічная мова), працэсы стыхійнай моватворчасці запавольваліся, развіццё мовы адбывалася ў адпаведнасці з ускладненнем культуры. Стваралася спецыфічная для навуковага пазнання тэрміналагічная лексіка, паступова рэдукавалася першасная вобразнасць мовы, павялічвалася значэнне яе як абстрактнай знакавай сістэмы. Аднак народная дыялектная мова захавала непасрэдную сувязь з прадметным быццём і субстратам міфалагічнага светабачання нават у класічную эпоху развіцця культуры (у славянскім рэгіёне — 19—пач. 20 ст.). Родная мова шмат паспрыяла культурна-нацыянальнаму адраджэнню народаў, абнаўленню іх мастацкай культуры на аснове народнасці і нацыянальнай самабытнасці. Як правіла, класічны этап культуры кожнага народа сумяшчаецца ў гістарычным часе з нацыянальнай кансалідацыяй народнасцей. Значна павышаецца роля роднае мовы як крыніцы нацыянальнай культуры і гаранта цэласнасці нацыі. Нацыянальная мова (жывое маўленне, літаратурная мова і навукова апрацаваныя зборы народнай, дыялектнай мовы) становіцца цяпер ядром нацыянальнай культурнай спадчыны народа, вакол якога групуюцца інш. віды і формы нацыянальнай культуры. Калі наступае перыяд другаснага спрашчэння культуры (распад класічных форм, стылявая эклектыка, эпігонства, дэнацыяналізацыя і касмапалітычныя тэндэнцыі, крызіс высокіх жанраў і інш.), нацыянальная мова поруч з інш. формамі класічнай культурнай спадчыны застаецца тым «непарушным фондам» духоўных каштоўнасцей, якія назаўсёды застаюцца ў народа, перадаюцца яго нашчадкам і будучым спадчыннікам. Гістарычны вопыт сведчыць, што мова народа — гэта знакавае, вобразнае і сімвалічнае адлюстраванне яго быцця і культуры, дакладнае, хоць часта і «зашыфраванае», выяўленне яго асноўных этнаграфічных характарыстык, культурных запазычанняў і ўплываў. Старабеларуская мова 13—17 ст. сёння з'яўляецца важнай, далёка не вычарпанай крыніцай вывучэння этнагенезу і гісторыі беларусаў, бо яна адлюстравала народны побыт, вытворчую культуру, асабліва земляробства, рыбалоўства, дойлідства і хатняе рамесніцтва, эканамічныя, палітычныя структуры тагачаснага грамадства, яго прававыя і інш. ўстановы, урэшце, маральныя і мастацка-эстэтычныя ідэалы. Бясспрэчна, найбліжэй да этнічнага быцця народа была вусная дыялектная мова, яна выявіла не толькі агульнабеларускія, але і мясцовыя, «абласныя» рысы побыту і культуры. На жаль, сістэматычныя фальклорныя і лінгвістычныя запісы пачаліся ў нас толькі ў 19 ст., таму толькі пасля адпаведнай навуковай рэстаўрацыі на іх аснове архаічных элементаў мовы яны могуць быць выкарыстаны ў якасці крыніцы даследавання культуры папярэдніх стагоддзяў.

Неабходна ўлічыць таксама і тое, што мова, асабліва літаратурная, больш дынамічная сістэма, чым традыцыйная народная культура, якая пераважала ў народным побыце 19 — пачатку 20 ст., а сёння захавалася фрагментарна або набыла форму мастацка-прыкладнога стылізатарства. Працяглы пераходны перыяд ад старабеларускай мовы да мовы нацыянальнай (другая палова 17—18 ст.) пазначаны стратай ёю ранейшых дзяржаўных і інш. афіцыйных функцый. Адбылося адчужэнне ад роднай мовы шмат якіх галін культуры (палітычнае і сацыяльна-эканамічнае кіраванне, прафесійная мастацкая культура, гутарковая мова пэўнай часткі насельніцтва, пераважна чыноўніцтва, дваранства і гарадскога люду). Нават пазней, у 19 — пачатку 20 ст., калі беларуская мова наблізілася да класічнай дасканаласці, афіцыйнае грамадства, у тым ліку рускія, польскія і мясцовыя «рускамоўныя» даследчыкі і публіцысты, бачыла ў ёй выяўленне простанароднай, пераважна сялянскай, культуры, якая хоць і валодае пэўнымі этнаграфічнымі асаблівасцямі, аднак не здолее перарасці ў самастойную нацыянальную плынь і ў канчатковым выніку далучыцца да рускай або польскай культур. Гэтая адлучанасць афіцыйнага грамадства, у тым ліку большай часткі дзеячаў прафесійнай культуры, ад нацыянальнай мовы свайго народа — асноўная прычына запаволенасці працэсу станаўлення нацыянальных стыляў у выяўленчых мастацтвах і панавання іншанацыянальнай культуры ў тых відах мастацтва, якія непасрэдна звязаныя з мовай (тэатр, красамоўства, вакальная музыка). Сфера афіцыйнай школьнай асветы на ўсіх яе ступенях была поўнасцю дэнацыяналізавана, выкладанне вялося на польскай, з сярэдзіны 19 ст. пераважна на рускай мове.

Спецыфічны шлях развіцця беларускай нацыянальнай культуры — чаргаванне перыядаў адноснага занепаду і больш ці менш працяглыя стадыі паскоранага засваення ёю айчыннага і сусветнага духоўнага вопыту. Зорныя часы сацыяльнай актыўнасці і напружанай культурнай творчасці ў гісторыі народа справядліва названы эпохамі культурна-нацыянальнага Адраджэння. А пачыналася яно заўсёды з абвяшчэння роднай мовы першай духоўнай каштоўнасцю, якая жывіць іншыя галіны нацыянальнай культуры, выконваючы свайго роду праграмную і палітычную функцыі. З асветніцкай дзейнасці Ф. Скарыны, яго перакладу на родную мову Бібліі (1517—19) пачаўся адлік гадоў першага беларускага народнага Адраджэння ў эпоху еўрапейскага Рэнесанса. Выдатныя дзеячы беларускай культуры 16—17 ст. (П. Мсціславец, С. Будны, В. Цяпінскі, Л. Зізаній, М. Сматрыцкі, А. Філіповіч, Сімяон Полацкі і інш.) прама ці ўскосна былі ангажыраваны культурна-асветніцкай спадчынай першадрукара. Другое беларускае Адраджэнне пачалося ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з паступовага вяртання да літаратурнага жыцця беларускай мовы. Гэта быў этап станаўлення нацыянальнай культуры пад уздзеяннем філасофіі Асветніцтва і фальклорна-этнаграфічнага рамантызму (ананімныя помнікі культуры і літаратуры 18 ст., травесційныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», літаратурная і культурна-асветная дзейнасць Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлі, В. Каратынскага, Я. Лучыны, А. Абуховіча, Ф. Тапчэўскага, Ф. Багушэвіча і інш.). Новы этап беларускага нацыянальнага Адраджэння пачаўся пасля рэвалюцыі 1905 года і найважнейшае яго дасягненне — стварэнне беларускай класічнай літаратуры. Яна была вынікам творчасці Цёткі, Ядвігіна Ш., Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, А. Гаруна, Ц. Гартнага, М. Гарэцкага, іншых пісьменнікаў і дзеячаў культуры, што згрупаваліся вакол беларускага друку, найперш газеты «Наша ніва» — неафіцыйнага «Ін-

стытута беларускай культуры». Вяртанне да жыцця роднае мовы садзейнічала станаўленню беларускага тэатральнага (тэатр І. Буйніцкага), музычнага і выяўленчага мастацтваў, узнікненню беларускай гістарыяграфіі, краязнаўства, іншых галін ведаў, аб'яднаных тады ў комплексную навуку беларусазнаўства.

Авангардная, нават праграмная роля беларускай мовы ў развіцці інш. галін культуры прычынілася да таго, што на ўсіх этапах гісторыі Беларусі барацьба за яе грамадска-палітычнае сцвярджэнне вырашала лёс іншых галін нацыянальнай культуры, іх росквіт або, пры неспрыяльных выніках гэтага змагання,— іх заняпад. Не выпадкова трэцяе культурна-нацыянальнае Адраджэнне пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пачалося з палітыкі вяртання роднай мовы ва ўсе галіны грамадскага быцця і культуры БССР (гл. **Беларусізацыя**). Рэальнасць ажыццяўлення беларусізацыі вынікала з яе моцнай укаранёнасці ў традыцыі нацыянальнай культуры, у духоўныя глыбіні народнага быцця. Бо родная мова, традыцыйны лад жыцця народа, яго фальклор, адным словам, народная культура — генетычная аснова сацыяльнага і духоўнага адзінства этнасу, карані яго гістарычнай памяці. Страціўшы родную мову, народ траціць маральныя арыенціры і духоўную пераемнасць паміж пакаленнямі. Вось чаму вечна актуальныя для беларусаў простыя словы іх паэта Францішка Багушэвіча «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі» (Тв. Мн., 1967. С. 17). Палітыка беларусізацыі ўраўняла ў правах былую «сялянскую» мову з дзяржаўнымі мовамі, у выніку чаго і ўзнікла хваля трэцяга беларускага культурнага Адраджэння. Яна падняла з народных глыбінь ужо не толькі таленавітыя адзінкі, але і цэлыя кастаў, дзеячаў выяўленчага і музычнага мастацтваў. Шпарка ствакальнага мастацтваў. Шпарка стваралася спецыфічна-нацыянальная навука, сярэдняя і вышэйшая школа з выкладаннем на беларускай мове, падымалася да культурнага жыцця вёска.

Жорсткія рэпрэсіі канца 20—30-х гадоў спынілі ажыццяўленне палітыкі развіцця беларускай мовы і культуры. Яна фактычна страціла дзяржаўны статус. Але парадокс у тым, што нават у трагічныя для народа і яго культуры 30-я гады сацыяльны статус беларускай мовы быў вышэйшы, чым пасля застойных 1960—70-х гадоў. Бо вёска, дзе ў той час жыла большасць насельніцтва БССР, вясковая агульнаадукацыйная школа, культурна-асветныя ўстановы, педвучылішчы і двухгадовыя настаўніцкія інстытуты ў пэўнай ступені заставаліся беларускамоўнымі. Нават паводле «сталінскай» Канстытуцыі БССР 1937 г. народу гарантавалася права на адукацыю «навучаннем у школе на роднай мове». А вось «брэжнеўская» Канстытуцыя БССР 1977 г. нават фармальна не ўпамінае пра гэтае права, абмяжоўваецца абстрактнай «магчымасцю навучання на роднай мове». Прычынай страты беларускай мовай сваіх ранейшых пазіцый з'яўляецца дэнацыяналізацыя ўсіх сфер грамадска-палітычнага кіравання і сістэмы падрыхтоўкі кадраў. Ужо ў 30—40-я гады вышэйшая школа на Беларусі стала фактарам дэнацыяналізацыі ва ўсіх галінах эканомікі, сацыяльнай сферы і культуры. Паводле даследаванняў мовазнаўцаў, у канцы 1980-х гг. на Беларусі руская мова займала непадзельнае становішча ў сферах грамадска-палітычнага, адміністрацыйнага і вытворчага жыцця, дамінавала ў народнай адукацыі, рэспубліканскім друку (Булыка А. Да родных вытокаў. Моўная сітуацыя ў люстэрку сацыялінгвістыкі // ЛіМ. 1989. 2 чэрв.). У выніку гэтых сацыяльных і духоўных страт беларуская культура апынулася ў становішчы, якое пэўным чынам нагадвае сітуацыю ў другой палове 17—19 ст.— адрыў сацыяльна-палітычнага жыцця краіны, школы і наогул афіцыйнай «сферы» ад традыцый роднай мовы і нацыянальнай культуры. Аднак сёння беларуская мова і культура ўжо не мае за сабой такой магутнай асновы, якой была мінулая беларуская вёска, дзе жыла большасць насельніцтва Беларусі, захоўваліся традыцыі нацыянальнай мовы, фальклору, наогул нацыянальнай культуры. Сёння там жыве меншасць насельніцтва, да таго ж ва ўмовах фарсіраванай дэнацыяналізацыі. У такой сітуацыі праблему адраджэння беларускай мовы і далучэння да яе ўсіх сфер грамадскага быцця і культуры нельга вырашыць толькі на шляху культурна-асветнай працы. Наспела неабходнасць сацыяльна-палітычнага вырашэння праблемы, якая ўзнікла ў выніку крызісу жывога бытавання нацыянальнай мовы большасці насельніцтва Беларусі.

*Літ.:* Конан У. Святло для людзей: Родная мова і культура ў эпоху перабудовы. Мн., 1989. *У. М. Конан.*

## МОВА І ЛІТАРАТУРА

Жывая народная мова ў разнастайнасці яе мясцовых дыялектаў — зыходная аснова для станаўлення фальклору і пісьмовай літаратуры. У сваю чаргу ўзнікненне літаратуры ў шырокім сэнсе гэтага паняцця як пісьмовай культуры (паэзіі, прозы, навуковай і дзелавой пісьменнасці, бытавой перапіскі і г. д.) ёсць перадумова станаўлення мовы літаратурнай. Узаемадзеянне гэтых сістэм духоўнай культуры на розных стадыях гістарычнага развіцця неадназначнае, дыялектычна супярэчлівае: прагрэс на ўзроўні адных падсістэм і іх элементаў не абавязкова суправаджаецца паступальным развіццём другіх. У неспрыяльных сацыяльна-культурных умовах узнікаюць рэгрэсіўныя тэндэнцыі сістэмы ў цэлым або тых ці іншых яе арганічных частак. Аднак у гістарычнай перспектыве рэалізуецца іх адносна сінхроннае развіццё: багатая, вобразная і гнуткая мова стымулюе развіццё ўсіх родаў і жанраў літаратуры; у сваю чаргу росквіт апошняй садзейнічае ўзбагачэнню і функцыянальнай дыферэнцыяцыі мовы. Характар гэтых працэсаў зноў жа неадназначны ў розныя культурна-гістарычныя перыяды — этнаграфічны (стадыя першапачатковай прастаты), класічны (квітнеючая складанасць) і перыяд другаснага спрашчэння. Гутарка ідзе пра логіка-тыпалагічную перыядызацыю, бо ў рэальным працэсе гэтыя перыяды недастаткова лакалізаваныя ў часе, характарызуюцца незавершанасцю, адкрытасцю і адноснасцю сваіх сутнасных, якасных характарыстык, урэшце рэгіянальнай варыянтнасцю. Адносна моўна-літаратурнага працэсу можна прымяніць іншыя прынцыпы перыядызацыі, напрыклад выдзеліць стадыі ранняга сінкрэтызму, класічнага сінтэзу і посткласічную аналітычную стадыю. У кожным разе «поле зроку» мяняецца ў залежнасці ад крытэрыяў ацэнкі мовы і літаратуры на розных стадыях іх гістарычнага развіцця. Аднак пры любой класіфікацыі адпаведныя стадыі маюць пэўны набор тыповых характарыстык.

На гістарычна першай стадыі адбываюцца інтэнсіўныя працэсы моватворчасці, вобразнае, метафарычнае слова нясе на сабе жывыя адзнакі дапісьмовага перыяду міфатворчасці і з найбольшай паўнатой выяўляецца ў ранніх відах фальклору. У гэты першапачатковы перыяд суб'ектам моватворчасці з'яўляецца народ і ў значна меншай ступені прафесійныя пісьменнікі. Больш таго, паміж народнымі гаворкамі і літаратурнай мовай у асобныя гістарычныя перыяды ўзнікае неадпаведнасць, калі апошняя становіцца носьбітам архаічнага традыцыяналізму з абмежаванымі элітарнымі функцыямі (латынь у Заходняй Еўропе, стараславянская мова ва ўсходнеславянскім рэгіёне). Жывая гутарковая мова ў гэты ранні перыяд вызначаецца мастацкай вобразнасцю. Яна адлюстроўвае ўвесь жыццёва-практычны і духоўны вопыт народа. Этнаграфічная стадыя моўна-літаратурнай культуры — найбольшая паводле гістарычнага часу — стварае сацыяльныя і духоўныя ўмовы для класічнага перыяду, які характарызуецца гарманічнай суадноснасцю гутарковай і літаратурнай моў, завяршэннем фальклору як мастацкай сістэмы і яго літаратурнай фіксацыі ў навуковай фалькларыстыцы, росквітам і стылявой завершанасцю асноў-

ных родаў і жанраў мастацкай літаратуры. Завяршаецца фарміраванне нацыянальных літаратурных моў. Адпаведна павялічваецца роля мастацкай літаратуры ў працэсе моватворчасці. Гэты якасны скачок у развіцці мовы і літаратуры, аднак, неадназначны, бо на сваёй выходнай стадыі суправаджаецца частковым затуханнем стыхійнай народнай моватворчасці, знікненнем асобных дыялектаў і гаворак, палярызацыяй элітарных і масавых форм моўнай культуры і адпаведна — пісьмовай літаратуры і вуснай народнай творчасці. Дыялектычна супярэчлівыя працэсы адбываюцца таксама на ўзроўні міжнацыянальных адносін: асіміляцыя «малых» і запозненых у сваім развіцці культур, якія трапілі ў сферу ўплыву пануючых моў і культур, з аднаго боку, і культурна-нацыянальнае адраджэнне гэтых народаў, узнікненне новых нацыянальных літаратур, з другога. Урэшце, стадыя посткласічнага аналітызму характарызуецца затуханнем народнай моватворчасці, дамінаваннем літаратурнай мовы над вуснымі народнымі гаворкамі, тэндэнцыямі да знікнення не толькі рэгіянальных дыялектаў, але і асобных нацыянальных моў, інфарматыўнай і прагматычнай уніфікацыяй мовы і значным паніжэннем яе вобразнасці, пашырэннем сацыяльных дыялектаў, сістэмным даследаваннем народнай і класічнай літаратурнай мовы як помнікаў культуры і моўна-літаратурнай традыцыі. Прадуктыўная моватворчасць пераносіцца галоўным чынам у сферу паэзіі і наогул мастацкай літаратуры. Пісьменнікі цяпер абапіраюцца пераважна на выніке лінгвістычнай фіксацыі народнай мовы, бо сфера яе жывога бытавання звужаецца. Аднак гэтая стадыя — не фатальны вынік гістарычнага развіцця мовы і літаратуры. У спрыяльных сацыяльна-палітычных умовах другаснае спрашчэнне пераадольваецца свядомым рухам грамадства да адраджэння традыцыйных духоўных каштоўнасцей, у тым ліку нацыянальнай мовы і фальклору.

У працэсе станаўлення і развіцця беларускай мовы і літаратуры выявіліся як агульныя, так і нацыянальныя спецыфічныя заканамернасці іх узаемадзеяння. На фарміраванне старажытнарускай, а з 13—16 ст. старабеларускай мовы паўплывала агульная для славянскіх народаў старославянская літаратура. Вынікам іх узаемадзеяння было станаўленне спачатку агульнага для ўсходнеславянскага рэгіёна старажытнарускага пісьменства, у тым ліку мастацкай літаратуры, а пазней, ва ўмовах феадальнай раздробленасці і ўзнікнення Вялікага княства Літоўскага,— старабеларускай літаратуры. Відавочна, што гутарковая мова ўсходнеславянскіх плямёнаў, якія пазней склалі беларускую народнасць, паўплывала на лексіку і стылістыку ранніх літаратурных помнікаў Беларусі. У 13—15 ст. на яе аснове сфарміравалася старабеларуская («руска» паводле тагачаснай тэрміналогіі) мова, што набыла статус дзяржаўнай мовы Вялікага княства Літоўскага. Асаблівасць лінгвістычнай і літаратурнай сітуацыі беларускага сярэднявечча — залежнасць стыляў, лексічнага і сінтаксічнага складу мовы ад яе функцыянальнага прызначэння. Найперш сфарміравалася канцылярска-юрыдычнае, прававое пісьменства (Метрыка і Статуты Вялікага княства Літоўскага), а ў канцы 15—17 ст.— іншыя свецкія літаратурныя стылі — гісторыка-летапісны і літаратурна-мастацкі (арыгінальная і перакладная мастацкая і мемуарная літаратура). У выніку пранікнення беларускай мовы ў рэлігійнае пісьменства ў 15 ст. ўзнікла беларуская рэдакцыя царкоўнаславянскай мовы (агіяграфічныя творы, «Аповесць пра трох каралёў-вешчуноў» і інш.). На яе аснове ў 16 ст. Ф. Скарына стварыў яшчэ адну стылявую разнавіднасць роднай мовы — урачыста-кніжны, «біблейскі» стыль і блізкі да яго паэтычны стыль рэлігійных гімнаў — акафістаў і канонаў. Беларускі першадрукар і асветнік садзейнічаў таксама развіццю публіцыстыкі і красамоўства — распаўсюджаных жанраў старабеларускай літаратуры. Пачынальнікам рэнесансавай свецкай паэзіі на Беларусі быў новалацінскі паэт М. Гусоўскі, аўтар лірыка-эпічнай паэмы «Песня пра зубра» (1523).

Рэнесансавая плынь (Скарына, Гусоўскі, С. Будны, В. Цяпінскі і іх паслядоўнікі) — гэта класічны этап у развіцці старабеларускай літаратуры. Моўная сітуацыя эпохі агульнаеўрапейскага Адраджэння ў беларускім рэгіёне (16 — першая палова 17 ст.) характарызуецца наяўнасцю некалькіх літаратурных моў — агульнанароднай (беларускай), агульнаславянскай (старославянскай, або царкоўнаславянскай), новалацінскай, урэшце — старапольскай, якая, поруч з лацінскай моваю, мела пэўнае значэнне ў станаўленні свецкай літаратуры ў беларускім краі. Пры гэтым дамінуючай і найбольш пашыранай (дзякуючы свайму становішчу дзяржаўнай мовы) была родная мова беларусаў. Па традыцыі яе называлі «рускай» (Скарына), «славянскай» (Будны, Цяпінскі, Л. Зізаній, М. Сматрыцкі), часам «літвінскай» (замежныя аўтары). Клопаты пра яе развіццё і захаванне сталі літаратурна-эстэтычнай праграмай беларускіх пісьменнікаў, філолагаў і асветнікаў. Ф. Скарына пісаў пра сябе, што ён друкуе на роднай мове кніжкі «наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил» (Францыск Скарына і яго час: Энцыкл. даведнік. Мн., 1988. С. 22). В. Цяпінскі перасцерагаў сваіх суайчыннікаў: бацькаўшчына наша «до конца згинет», калі яе дзяржаўныя, грамадскія і духоўныя кіраўнікі выракуцца роднае мовы. Пра яе лёс клапаціўся і С. Будны, калі ў сваім беларускім «Катэхізісе» (1562) параіў дзяржаўцам, каб яны «любілі мову таго народу, якой даўнія продкі і іх княжацкія міласці, паны і бацькі вашых княжацкіх міласцяў спрадвеку слаўна кіруюць». У навукова-палемічнай публіцыстыцы і мастацкай літаратуры беларуская мова часткова захавала свае пазіцыі да сярэдзіны 17 ст. (сілабічная паэзія Ф. Скарыны, Я. Пашкевіча, А. Рымшы, Сімяона Полацкага, палемічныя творы М. Сматрыцкага і А. Філіповіча, мемуарная і эпісталярная спадчына Ф. Кміты-Чарнабыльскага і Ф. Еўлашоўскага ды інш. пісьменнікаў-палемістаў і асветнікаў 16—17 ст.). Характэрна, што на старабеларускай мове друкаваліся літаратурныя прадмовы і навуковыя каментарыі да кніг, выдадзеных на старославянскай мове (прадмова Р. Хадкевіча да выдадзенага ў 1569 г. І. Фёдаравым і П. Мсціслаўцам «Евангелля вучыцельнага», каментарыі і ўступныя заўвагі да падручнікаў славянскай мовы Л. Зізанія ў 1596 г., М. Сматрыцкага ў 1618 г.). Аднак з канца 16 ст. паступова надышоў крызіс старабеларускай літаратуры і літаратурнай мовы, і гэты спад першымі адчулі беларускія пісьменнікі. Пазней настаў працяглы, хоць і адносны заняпад беларускай моўна-літаратурнай культуры. Ён тлумачыцца галоўным чынам неспрыяльнымі гістарычнымі ўмовамі яе развіцця ў 18—19 ст., польска-беларускім, пазней руска-беларускім двухмоўем, у выніку якога стварылася такая сітуацыя, калі родная мова большасці насельніцтва Беларусі, пазбаўленай суверэнітэту і нацыянальнай дзяржаўнасці, аказалася выцесненай з афіцыйных сфер грамадскага і палітычнага жыцця, школьнай адукацыі, навукі і элітарнай культуры. Гістарычны вопыт засведчыў, што не архаічныя мовы з іх абмежаванымі функцыямі (лацінская і старославянская мовы літургіі, навукі, рэлігійнай і часткова свецкай элітарнай паэзіі), а жывыя, здольныя да развіцця і асімілятыўнага пашырэння польская і руская нацыянальныя мовы ў грамадстве сацыяльнага і нацыянальнага няраўнапраўя выцеснілі беларускую мову з афіцыйнага ўжытку на працягу 17—19 ст. У пераходны перыяд ад старабеларускай да новай нацыянальнай беларускай літаратурнай мовы (другая палова 17—18 ст.) узнікла супярэчнасць паміж афіцыйнай літаратурай і моваю польскай, а пазней рускай, з аднаго боку, і вуснай моваю беларусаў — з другога. У выніку гэтага тагачасная мова школьнай адукацыі, дзяржаўнага справаводства і афіцыйнага друку толькі ўскосна паўплывала на станаўленне беларускай нацыянальнай мовы і новай літаратуры. Асноўнай крыні-

цай, адкуль яны чэрпалі свае рэсурсы, была народная моватворчасць, фальклор і шматлікая неафіцыйная і паўафіцыйная, пераважна рукапісная беларуская літаратура другой паловы 17—18 ст. ў яе шматлікіх «ніжэйшых» жанрах (інтэрмедыі, камедыі, школьныя драмы, травесційная літаратура), сацыяльных дыялектах і жаргонах. Гэта моватворчасць характарызуецца пераходнымі прыкметамі ад старабеларускай да новай нацыянальнай мовы. Такая спецыфіка станаўлення беларускай нацыянальнай літаратуры абумовіла на першай стадыі яе развіцця (19 — пачатак 20 ст.) перавагу мастацкага і бытавога, гутарковага моўных стыляў і адпаведных літаратурных жанраў, запозненасць узнікнення іншых стылявых разнавіднасцей — афіцыйна-справавога, навуковага, публіцыстычнага. Аднак стылі мовы і літаратурныя жанры — пераважна іх функцыянальныя характарыстыкі. Адносна ж унутраных рэсурсаў (лексічнага фонду, граматычнага складу і сінтаксісу) нельга не заўважыць пераемнасці паміж старабеларускай і новай нацыянальнай беларускай літаратурай. Разам з тым відочна, што моватворчыя магчымасці старабеларускага пісьменства, традыцыі Ф. Скарыны, Сімяона Полацкага, палемічнай, юрыдычнай і справавой літаратуры 16—17 ст. яшчэ далёка не вычарпаны сучаснай беларускай мовай і, трэба думаць, будуць выкарыстаны ў сучасных працэсах развіцця яе новых стылявых плыняў, якія непазбежна сфарміруюцца ў выніку пашырэння жывога бытавання роднай мовы ў галіне навукі, культуры, сацыяльнага і дзяржаўнага кіравання.

Беларуская літаратура, фальклАрыстыка і публіцыстыка 19 — пачатку 20 ст. былі асноўнымі фактарамі развіцця літаратурнай мовы беларускага народа і адраджэння яго нацыянальнай культуры. Унікальнасць і сацыяльная праблематычнасць гэтага працэсу былі абумоўлены адчужанасцю пануючых слаёў грамадства і дзяржаўнай сістэмы ад роднай мовы беларусаў, наяўнасцю супярэчнасцей паміж дзяржаўнымі мовамі — польскай, а з 19 ст. рускай,з аднаго боку, і жывой гутарковай мовай большасці насельніцтва — з другога. У гэтых варунках суадносіны паміж мовай і літаратурай ускладняліся. Не было адзінай нацыянальнай мовы. Пануючыя руская і польская мовы, выцесненая ў сацыяльныя «нізы» беларуская мова — фактычна свайго роду сацыяльныя «дыялекты» — першыя як мовы дэнацыяналізаваных «вярхоў», апошняя — у якасці мовы працоўнага народа, пераважна сялянства. Гэта парушала нацыянальную цэласнасць літаратурнага працэсу, які не меў адзінага «ядра», распадаўся на мясцовыя правінцыйныя плыні польскай, пазней рускай літаратур і беларускай народнай літаратуры, якая павінна была пачынацца амаль што нанава — з яшчэ адной этнаграфічнай стадыі. Ненармальнасць такога становішча ўсвядомілі пачынальнікі беларускай літаратуры 19 ст. Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, А. Вярыга-Дарэўскі, В. Каратынскі і інш.: выступаючы ў друку пераважна на польскай мове, яны сваімі беларускімі творамі даказалі прынцыповую магчымасць новай літаратурнай мовы. Іх паслядоўнікі ў другой палове 19 ст.— В. Дунін-Марцінкевіч, К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, Янка Лучына і інш.— фактычна заснавалі новую беларускую літаратуру і літаратурную мову, на аснове якой Янка Купала, Якуб Колас, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, іх паслядоўнікі — паэты, празаікі і публіцысты — стварылі нацыянальную літаратурную класіку. Выключная роля літаратурнай нармалізацыі ў развіцці беларускай мовы належыць беларускаму друку, найперш газеце «Наша ніва» і створаным па ініцыятыве яе супрацоўнікаў кнігавыдавецтвам. Аднак у царскай Расіі за беларускім народам не прызнавалася нацыянальная самастойнасць, а ў яго літаратуры бачыўся «сепаратысцкі» радыкалізм, падрыў «адзінства рускага народа». У выніку гэтага бяспраўя беларуская літаратурная мова развівалася тады пераважна як мова мастацкай літаратуры і публіцыстыкі, а разнастайныя формы яе пісьмовага выяўлення разглядаліся як віды і жанры літаратурнай творчасці. Такім чынам склалася выключнае значэнне нацыянальнай літаратуры ў развіцці беларускай мовы, яе гістарычным лёсе. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі былі зацверджаны заканадаўчыя акты, якія надавалі ёй статус дзяржаўнай мовы (гл. **Беларусізацыя**), значна пашырылася сфера яе прымянення ў народнай асвеце, культуры, грамадскім жыцці і дзяржаўным кіраванні. Адказ ад палітыкі нацыянальна-культурнага адраджэння ў перыяды сталінізму і застою прывялі да крызісу грамадскага бытавання роднай мовы. Сёння высокаразвітая нацыянальная літаратура поруч з фальклорам ды іншымі галінамі нацыянальнай культуры застаецца найважнейшай крыніцай і гарантам прынцыповай магчымасці адраджэння беларускай гутарковай і літаратурнай мовы, а літаратурная творчасць — пераважнай сферай нацыянальнай моватворчасці. Тут — жывая дыялектыка гістарычна супярэчлівага ўзаемадзеяння мовы і літаратуры: на стадыі затухання стыхійнай моватворчасці народа літаратура аддае народу ўзятыя раней ад яго духоўныя скарбы — нацыянальную мову.

*У. М. Конан.*

## МОВА І МУЗЫКА

Прачытаем няспешна ўголас: *Ой, рэчанька, рэчанька, // Чаму ж ты не поўная? // Люлі, люлі, люлі // Чаму ж ты не поўная, // Чаму ж ты не поўная, // З беражком не роўная? // Люлі, люлі, люлі, // З беражком не роўная*... Што чутно ў гэтых радках? Словы? Рыфмы? Паўторы? Відаць, так. Але чуйнае вуха ўгадае яшчэ і мелодыю, якая нібы схавана ў маўленчай інтанацыі, нараджаецца з яе, мацнее і надае словам лірычную тужлівасць, радкам — эмацыянальную выразнасць, строфам — завершанасць песеннага выказвання.

Ці выпадковая такая сувязь — паміж інтанацыяй і мелодыяй, вершам і песняй, мовай і музыкай? Не, зусім не выпадковая. І першае пацвярджэнне гэтага — свабодная спалучальнасць двух слоў, што ўтвараюць назву гэтага артыкула: можна сказаць і *мова музыкі*, і *музыка мовы*. І абодва спалучэнні маюць глыбокі сэнс.

У чым жа заключаецца сувязь дзвюх такіх важных для чалавека і грамадства з'яў, як мова і музыка? Адзначым напачатку, што і мова, і музыка выкарыстоўваюць звычайны прыродны «матэрыял» — гук. Калі зазірнуць у лінгвістычны і музычны слоўнікі, то нельга не заўважыць значнай колькасці тэрміналагічных супадзенняў: язык, голас, слых, інтанацыя, рэзанатар, артыкуляцыя, мелодыка, фразіроўка, тэмп, дынаміка, паўза, цэзура, арфаэпія і падобныя. Усе гэтыя тэрміны — і лінгвістычныя, і музычныя — так ці інакш звязаны з гукам, яго фарміраваннем, утварэннем, гучаннем і г. д. Возьмем, напрыклад, інтанацыю. Нават у звычайнай размове нельга не пачуць элементаў музычнага гучання. Адны і тыя ж словы, прамоўленыя то як сцвярджэнне, то як загад, запытанне або сумненне перадаюць розны сэнс. І вызначаецца гэта інтанацыяй, якая аказваецца важнейшай за змест слоў. А інтанацыя — гэта мелодыка фразы, яе «музыка». Для еўрапейскіх моў інтанацыя мае істотнае значэнне ў межах, як правіла, цэлай фразы. У некаторых жа ўсходніх мовах выключную ролю адыгрывае мелодыка асобнага слова, інтанацыя, з якой яно вымаўляецца,— павышэнне або паніжэнне, падаўжэнне або скарачэнне яе. У залежнасці ад гэтага мяняецца сэнс слова. Існуе гіпотэза, што такія мовы захоўваюць першапачатковую структуру музычна-меладычных каранёў чалавечай прамовы.

Моўны апарат чалавека — гэта і своеасаблівы музычны інструмент. Ён здольны ўтвараць «чысты» гук — голас, падобна да таго, як гэта робяць іншыя музычныя інструменты ў руках спрактыкаванага музыканта. Ёсць нават асобны музычны жанр — вака-

ліз, прызначаны для голасу без тэксту.

Трэба падкрэсліць яшчэ адзін момант тоеснасці (але, зразумела, адноснай) мовы і музыкі. Абедзве яны з'яўляюцца разнавіднасцямі знакавых (семіялагічных) сістэм і прызначаны для перадачы інфармацыі (побач, вядома, з вялікім мноствам іншых, вельмі разнаякасных знакавых сістэм — ад сігнальных кодаў жывёльнага свету да штучных моў праграміравання для ЭВМ). Толькі мова лічыцца асноўнай, першаснай, найбольш універсальнай знакавай сістэмай чалавека, а музыка — другаснай мадэліруючай сістэмай. Менавіта таму мы і гаворым пра «мову музыкі» з яе «алфавітам» — нотамі і правіламі пабудовы музычных тэкстаў. Як і мовазнаўства, музыказнаўства вывучае свой уласны аб'ект і мае разгалінаваную метамову для яго апісання, г. зн. музыказнаўчую тэрміналогію.

Вельмі цікава і тое, што толькі мова і музыка (адзіная з усіх відаў мастацтва, якія могуць абыходзіцца без слова) маюць дзве формы — вусную, гукавую, і пісьмовую, графічную. У мінулым музыка жыла толькі як мастацтва вуснай традыцыі. Таму сёння можна толькі здагадвацца, якой была музыка ў старажытнасці і нават у сярэднія вякі. Напрыклад, дажыло да нашага часу і набыло новы сэнс слова «бард» (паэт і спявак у старажытных кельтаў, а ў сярэднія вякі — прыдворны паэт у Ірландыі, Шатландыі і Уэльсе), але мы нічога не ведаем пра музыку бардаў, музычны характар іх балад, элегій, баявых песень і сатыр. Было ў гісторыі нямала спроб занатаваць гукі. Сучаснае нотнае пісьмо бярэ пачатак у 11 стагоддзі, і яго вынаходнікам лічаць італьянскага музыканта манаха Гвіда д'Арэцца. Нельга, аднак, сказаць, што са з'яўленнем запісу мелодыі зніклі старажытныя традыцыі захавання музыкі. Яны жылі і жывуць у народнай практыцы эстэтычнай дзейнасці — спевах, ігры на музычных інструментах, «народных операх» — вячорках, гульнях, святах. Таму і ў нашы дні захоўвае велізарнае значэнне музычны фальклор розных народаў, у тым ліку і беларускага.

З усіх мастацтваў музыка бліжэй за ўсё да паэзіі, таму што паэзія, як і музыка,— гэта стыхія гучання. Варта, аднак, не забывацца на тое, што для паэзіі гучанне неадрыўнае ад сэнсу слоў, а для музыкі — яе першапачатковая і адзіная аснова. Блізкасць музыкі і паэзіі — у іх паходжанні, у агульнасці далейшай гісторыі, узаемазалежнага развіцця. Можна меркаваць, што ў глыбокай старажытнасці мелодыя і слова-сказ утваралі адзіны комплекс. Вось як гаворыцца пра гэта ў індыйскім трактаце, створаным у пачатку нашай эры: «Здаўна-давён ніхто і не спрабаваў чытаць што-небудзь без музыкі або інтаніраваць без слоў. І чым старажытнейшыя тэксты, тым больш там спявання, музыкі і ігры і менш таго, што трэба чытаць і вымаўляць. І няма тут музыкі — без слова, радка, літары...». На працягу тысячагоддзяў паэзія і музыка не разлучаліся. І сёння яны таксама крочаць поруч.

Шырокае поле ўзаемадзеяння мовы і музыкі — тыя жанры, дзе выкарыстоўваецца слова, той ці іншы моўны тэкст. Гэта прыпеўка, песня, раманс, кантата, араторыя, опера, аперэта і інш. Ім проціпастаўляюцца інструментальна-сімфанічныя творы. Аднак успрыняцце інструментальнай музыкі значна аблягчаецца ў тых выпадках, калі кампазітар суправаджае сваё сачыненне *літаратурнай праграмай*, г. зн. раскрывае, канкрэтызуе змест музычнага твора з дапамогай слоўнага — літаратурнага ці гістарычнага — тэксту-каментарыя. Калі слухачу загадзя вядомы літаратурны сюжэт, тады разуменне самой музыкі становіцца больш канкрэтным, акрэсленым, дакладным, бо яно абапіраецца на слоўныя вобразы ці логіку літаратурнай праграмы.

Яшчэ адна форма сувязі тэксту і музыкі — гэта меладэкламацыя, г. зн. мастацкае чытанне вершаў або прозы на фоне музычнага суправаджэння. Меладэкламацыя ўзнікла яшчэ ў антычным тэатры. У 19 стагоддзі яна нярэдка выкарыстоўвалася ў оперы. Як асобны канцэртна-эстрадны жанр яна карысталася вялікай папулярнасцю з канца 19 стагоддзя і ў Расіі. У 20 стагоддзі меладэкламацыя набыла рысы, што набліжалі яе да рэчытатыву. У рэчытатыве спецыяльнымі знакамі фіксуюцца рытм маўлення пад музыку і вышыня гукаў голасу, г. зн. пэўным чынам музычна апрацоўваецца сама маўленчая інтанацыя. У творчасці асобных кампазітараў гэты від меладэкламацыі набыў форму так званага маўленчага спявання (панямецку Sprechgesang). Так працягваюцца пошукі далейшага арганічнага спалучэння асаблівасцей мовы і музыкі.

Мова музыкі — гэта яе сродкі: музычныя гукі і сугуччы, мелодыя, лад, метр, рытм, тэмбр, тэмп, дынаміка, рэгістр, гармонія, асанансы і дысанансы, мелізмы і г. д. Што ж тады мы маем на ўвазе, калі гаворым пра музыку мовы? Гэта перш за ўсё мілагучнасць маўлення, спалучэнне лірычнага настрою з дасканалымі гукавымі і вобразнымі сродкамі яго перадачы, выразнасць і дакладнасць інтанацыі, гукапіс. Вось два прыклады: *Ты бярозка не цярэбленая, // Тваё сучайкі сярэбраныя, // Макавачка пазалочывана, // Чорным шоўкам перастрочывана* (З народнай песні); *Ты кашулю мне вышый // Палявым васільком, // Чырванейшым ад вішань // Пераплёўшы сцяжком* (А. Лойка).

Мову і музыку збліжае і тое, што многія класічныя мелодыі (і народныя, і аўтарскія), як і маўленне на мове пэўнага народа, адрозніваюцца нацыянальнай самабытнасцю. У лепшых мелодыях, як і ў мове, па-свойму знаходзіць адбітак нацыянальная псіхалогія, адметны светапогляд народа, характар прыроды, якая ўзгадавала яго і сярод якой ён жыве. Не з'яўляюцца выключэннем і беларуская мова і беларускі мелас. Што такое, напрыклад, славутая «Лявоніха»? Гэта — адліты часам дыямент, у якім усімі фарбамі слова, музыкі, танца зіхаціць жывая душа беларуса, непаўторны характар народа. На свеце няма немеладычных нацыянальных моў або невыразнай, пазбаўленай думкі нацыянальнай музыкі, як няма і не можа быць народа без нацыянальнага мастацтва, у якім арганічна спалучаны слова, музыка, рух, фарба.

Сувязь музыкі і мовы, іх шматгранныя суадносіны — праблема, якая яшчэ чакае свайго даследчыка. Слушна пісалі венгерскія вучоныя ў кнізе «Мова, музыка, матэматыка», што менавіта тут, у сувязі гэтых з'яў, ляжаць асноўныя вытокі нашага мыслення. Дык ці ж не варта задумацца над гэтай праблемай?

*Літ.:* Вітка В. Слова ў песні; Слова ў музыцы // Вітка В. Азбука душы. Мн., 1988; Варга Б., Димень Ю., Лопариц Э. Язык, музыка, математика: Пер. з венг. М., 1981. *А. Я. Міхневіч.*

## МОВАЗНАЎСТВА

*Мовазнаўства, або лінгвістыка,*— навука пра сутнасць, будову, функцыяніраванне і развіццё мовы (гл. **Мова**). У залежнасці ад аб'екта вывучэння адрозніваюць *агульнае мовазнаўства* і *прыватнае*. Агульнае мовазнаўства вывучае ўласцівасці мовы як сродку зносін, як матэрыяльнага ўвасаблення мыслення, свядомасці, як знакавай сістэмы асобага роду; аб'ектам агульнага мовазнаўства з'яўляецца агульначалавечая мова наогул. Аб'ект прыватнага мовазнаўства — канкрэтныя мовы: беларуская, армянская, японская, лацінская і г. д. ці групы моў: славянская, германская, індаеўрапейская, цюркская, семіцкая і г. д. Даследаванні мовы індывідуума, накіраваныя на пазнанне якасцей мовы як агульначалавечай грамадскай з'явы, адносяцца да агульнага мовазнаўства, а вывучэнне яго маўлення з мэтай выяўлення асаблівасцей канкрэтнай мовы — да прыватнага мовазнаўства. Параўнанне дзвюх ці больш моў для паглыблення нашых ведаў аб мове наогул належыць да агульнага мовазнаўства, а параўнанне для раскрыцця тых ці іншых з'яў структуры або развіцця адной ці некалькіх канкрэтных моў — справа прыватнага мовазнаўства.

Можна выдзеліць два падыходы да моўных з'яў: з боку аналізу мовы ва ўсіх яе аспектах на пэўным часавым зрэзе — сінхранічны аспект і з боку

аналізу змены мовы на працягу часу — дыяхранічны (ад грэч. chrónos 'час' і diá 'праз, скрозь'). Гістарычныя даследаванні мовы маюць пераважна дыяхранічны характар, але і сінхранічнае апісанне асобнага помніка пісьменства ці мовы на пэўным старажытным этапе адносяць да гістарычнага мовазнаўства. Таксама і параўнальныя даследаванні могуць мець сінхранічную ці дыяхранічную накіраванасць. Дыяхранічныя даследаванні базіруюцца на вывучэнні паходжання і эвалюцыі пэўнай моўнай з'явы, а сінхранічныя раскрываюць законы ўзаемадзеяння моўных з'яў у структуры і функцыяніраванні мовы. Існуюць два асноўныя аспекты ў вывучэнні мовы: унутраны, накіраваны на даследаванне структуры мовы і яе частак, іх узаемадзеянне, функцыяніраванне пры пабудове моўных выказванняў і змяненні ў часе, і знешні (экстралінгвістычны), сутнасць якога ў вывучэнні мовы як цэласнай сістэмы ў грамадстве. Унутраная лінгвістыка вывучае перш за ўсё структуру мовы, а знешняя — існаванне мовы ў грамадстве ў розных выяўленнях.

Многія навуковыя дысцыпліны для ўдасканальвання пазнавальнага апарату выкарыстоўваюць мадэліраванне сваіх аб'ектаў. Першай мадэллю, пабудаванай лінгвістамі, была мадэль прамовы — г. зн. мовы, з якой развілася група сучасных роднасных моў. Ужо ў 1-й палавіне 19 ст. параўнальна-гістарычнае мовазнаўства (кампаратывістыка) стала будаваць мадэль зыходнай для групы роднасных моў — праіндаеўрапейскай мовы. Спосабы пабудовы гэтай мадэлі ўдасканальваліся, але сутнасць гэтай галіны мовазнаўства захоўвалася: пазнанне гісторыі роднасных моў праз будову і вывучэнне мадэлей прамоў. Іншая мадэль, якая ўзнікла ў мовазнаўстве,— гэта мадэль тыпу мовы (гл. **Тыпалагічнае мовазнаўства**). Першапачаткова, у сярэдзіне мінулага стагоддзя, паняцце тыпу мовы мела граматычнае ці нават марфалагічнае напаўненне. У далейшым тыпалогія моў узбагацілася шляхам пабудовы не толькі граматычных, але і іншых тыпаў мовы. Так, распрацавана фаналагічная тыпалогія моў, узнікла паняцце лексічнай тыпалогіі. Мэтазгодна гаварыць пра тыпы моў паводле іх грамадскіх функцый (нацыянальная мова, літаратурная мова, дыялект, гаворка, мова міжнародных зносін і г. д.). Наперадзе яшчэ, магчыма, абагульненні і сінтэз паняцця «тып мовы» на новым узроўні. Адным з паняццяў мадэліравання мовы былі ўзоры (мадэлі) асобных выказванняў ці іх фрагментаў (сінтаксічныя мадэлі) ці асобных фрагментаў граматычнай сістэмы (парадыгмы ці, як кажуць, калонкі скланенняў, спражэнняў). Сучаснае мовазнаўства, прымяняючы структурныя і матэматычныя метады, мадэліруе ўжо не толькі статычныя элементы сістэмы мовы і тэксту, але і дзеючую моўную сістэму ў цэлым ці яе асобныя фрагменты. Гавораць пра генератыўныя (параджальныя) мадэлі і дынамічныя мадэлі мовы, якія канструюе структурна-матэматычная лінгвістыка (гл. **Матэматычная лінгвістыка**). У пэўных адносінах з гэтымі мадэлямі знаходзяцца сумежныя псіхалінгвістычныя мадэлі, якія будуюцца на аснове тэорыі моўнай дзейнасці (гл. **Псіхалінгвістыка**). У гэтым выпадку мадэліруецца моўны акт, узаемадзеянне яго ўдзельнікаў, знешнія і ўнутраныя бакі маўлення і разумення ў працэсе моўных зносін.

Знешнія абставіны функцыяніравання мовы даследуюцца сацыяльнай лінгвістыкай і этналінгвістыкай (гл. **Сацыяльная лінгвістыка, Этналінгвістыка**). Пры гэтым звяртаецца пэўная ўвага і на выкарыстанне ў адпаведных грамадскіх умовах (у тым ліку ў рытуалах) розных унутрымоўных сродкаў, і на суадносіны моў, якія функцыяніруюць у дадзеным грамадстве. Можна гаварыць і пра спробы сацыялінгвістычнага і этналінгвістычнага мадэліравання моў.

| Раздзелы мовазнаўства | Прадмет вывучэння |
|---|---|
| Фанетыка, фаналогія | Гукі мовы і іх сістэма |
| Акцэнталогія | Націск |
| Інтаналогія | Інтанацыя |
| Арфаэпія | Правілы вымаўлення ў літаратурнай мове |
| Графеміка | Сістэма пісьменства |
| Арфаграфія | Правілы напісання |
| Марфаналогія | Заканамернасці ўжывання гукаў у тэксце |
| Граматыка | Граматычны лад мовы |
| Марфалогія | Словазмяненне |
| Сінтаксіс | Сказ, словазлучэнне |
| Дэрываталогія | Словаўтварэнне і марфемны склад слова |
| Лексікалогія | Слова і сістэма слоў |
| Лексікаграфія | Слоўнікі |
| Семасіялогія | Значэнні слоў |
| Фразеалогія | Устойлівыя словазлучэнні |
| Этымалогія | Паходжанне слоў |
| Анамастыка | Уласныя назвы розных тыпаў |
| Тапаніміка | Уласныя назвы геаграфічных аб'ектаў |
| Гідраніміка | Назвы водных аб'ектаў |
| Айканіміка | Назвы населеных пунктаў |
| Антрапаніміка | Уласныя імёны людзей |
| Тэаніміка | Назвы багоў |
| Зааніміка | Мянушкі жывёл |
| Астраніміка | Уласныя назвы нябесных аб'ектаў |
| Прагманіміка | Назвы рэчаў (тавараў) |
| Тэрміназнаўства | Навукова-тэхнічныя тэрміны |
| Стылістыка | Стылі мовы і яе стылістычныя сродкі |
| Лінгвістыка тэксту (лінгвістычная тэксталогія) | Тэкст, яго будова і цэласнасць |

Мовазнаўства як складаная навука вылучае і асобныя дысцыпліны, звязаныя з вывучэннем варыянтаў моў. Найшырэй даследуюцца мясцовыя варыянты мовы: дыялекты, гаворкі, іх размеркаванне на тэрыторыі пашырэння адпаведнай мовы; гэтым займаюцца дыялекталогія (гл. **Дыялекталогія**), дыялектаграфія, лінгвагеаграфія (гл. **Лінгвагеаграфія**). Сацыяльныя варыянты мовы вывучае сацыяльная дыялекталогія. Такая важная разнавіднасць мовы, як літаратурная, вывучаецца тэорыяй і гісторыяй літаратурных моў; мова мастацкай літаратуры з'яўляецца прадметам лінгвістычнай паэтыкі.

Асобныя раздзелы мовазнаўства прысвячаюцца тым ці іншым фрагментам моўнай сістэмы, што прадстаўлены ў табліцы.

Прыведзеныя ў табліцы асноўныя раздзелы мовазнаўчай навукі адлюстроўваюць складанасць яе аб'ектаў і сучасны стан разгаліновання навукі. Кожны з раздзелаў можа распрацоўвацца як у апісальным (сінхранічным), так і ў гістарычным (дыяхранічным) аспекце. На прыкладзе лексікалогіі ў табліцы паказана, як раздзел мовазнаўства дзеліцца на далейшыя раздзелы і падраздзелы. У чалавечай мове, яе функцыяніраванні і гісторыі шмат цікавага і нават яшчэ неадкрытага, і тыя, хто абмяжоўваецца ведамі пра мову толькі са школьнага падручніка, збядняюць сваё ўяўленне пра яе.

Мовазнаўства — філалагічная навука. Яно выдзелілася з комплекснай навукі пра слова — філалогіі — у выніку складаных навукатворчых працэсаў, калі да старажытнай граматыкі далучаліся іншыя галіны навукі, калі адбывалася стварэнне новых галін, іх аб'яднанне. Аднак выдзяленне мовазнаўства як асобнай навукі не вядзе да поўнага адрыву ад іншых галін філалогіі: літаратуразнаўства, фалькларыстыкі, гісторыі кнігі і г. д. Разам з гэтымі дысцыплінамі мовазнаўства праз аналіз моўных сродкаў памагае пазнаць духоўную культуру чалавецтва і ўносіць свой уклад у лепшае ўзаемаразуменне паміж людзьмі.

*Літ.:* Общее языкознание. Мн., 1983; Гумбольдт В. фон. Избр. труды по языкознанию. М., 1984; Соссюр Ф. де. Труды по языкознанию. М., 1977; Якобсон Р. О. Избранные работы. М., 1985; Общее языкознание; Хрестоматия. Мн., 1987. *А. Я. Супрун.*

## МОВАЗНАЎСТВА НА БЕЛАРУСІ

Акрамя праблем беларускай мовы (гл. **Гісторыя беларускага мовазнаўства**) мовазнаўцы Беларусі распрацоўваюць многія іншыя пытанні лінгвістычнай навукі. Адзін з перспектыўных кірункаў беларускай мовазнаўчай навукі — супастаўляльнае даследа-

ванне (гл. **Супастаўляльная лінгвістыка**). Тут на першым месцы пытанні супастаўляльнага аналізу фактаў беларускай мовы з фактамі іншай мовы або моў. Гэтай тэме прысвяцілі свае працы больш за 300 даследчыкаў (М. І. Гурскі, У. В. Анічэнка, М. В. Абабурка, І. С. Козыраў, М. І. Канюшкевіч, А. А. Гіруцкі, Т. В. Кузьмянкова, Л. П. Кунцэвіч, А. А. Лукашанец, В. М. Нікалаева, В. К. Шчэрбін, Л. А. Мельнікава, Л. М. Вардамацкі, Г. Дз. Жылуновіч, Л. А. Мурына, М. П. Навіцкі, В. А. Няхай, Г. М. Мезенка, Д. Д. Паўлавец, В. С. Сідарэц, Т. В. Паплаўская, П. М. Чайкун, М. В. Шарамета, А. М. Шаранда, А. В. Шыдлоўскі, А. В. Шылава, А. П. Фаміна, Л. Р. Яцкевіч і інш.).

Важная галіна беларускага мовазнаўства — русістыка. Руская мова вывучаецца ў параўнальным, апісальным і навучальна-метадычным аспектах (працы І. С. Козырава, А. Ф. Манаенкавай, Л. Г. Машчэнскай, А. Я. Міхневіча, В. М. Нікіцевіча, С. П. Прохаравай, А. Я. Супруна, П. П. Шубы, А. І. Яновіч, М. А. Аўласевіча, М. Г. Булахава, В. С. Грамыкі, М. І. Гурскага, І. А. Кісялёва, Г. М. Навумовіч, М. А. Паўленкі, А. В. Азароўскага, А. М. Бардовіча, Г. Н. Клюсава, А. І. Лашкевіча, В. М. Новапакроўскай, Н. А. Аўласенкі і інш.).

Развіваецца славістыка і славянская кампаратывістыка (гл. **Славяназнаўства**). Даследаванні вядуцца ў кампаратывісцкім і параўнальна-тыпалагічным кірунках. Славянская кампаратывістыка на Беларусі бярэ пачатак з 1920-х гадоў. Ужо тады была створана свая лінгвістычная школа. Параўнальна-гістарычнае мовазнаўства заняло цэнтральныя пазіцыі ў лінгвістыцы (гл. **Параўнальна-гістарычнае мовазнаўства**). Беларускія кампаратывісты абапіраліся на сусветныя дасягненні гэтай навуковай галіны, спалучалі найлепшыя кампаратывісцкія традыцыі з лінгвагеаграфіяй (гл. **Лінгвагеаграфія**). Цэнтральнымі фігурамі беларускай славістыкі сталі П. А. Бузук (гл. **Бузук Пётр Апанасавіч**) і І. В. Воўк-Левановіч (гл. **Воўк-Левановіч Іосіф Васілевіч**). Ужо ў 1925 г. ў працы «Гістарычнае вывучэнне беларускай мовы ў славянскай філалогіі» І. В. Воўк-Левановіч падвёў вынікі і вызначыў некаторыя перспектывы параўнальна-гістарычнага вывучэння беларускай мовы. Найбольш важнай працай 20-х гадоў па кампаратывістыцы з'явілася манаграфія П. А. Бузука «Спроба гісторыі дагістарычнай эпохі славянскай фанетыкі» (1927).

У даваенны час на кампаратывістыку і славянскае мовазнаўства абапіраўся М. О. Коген, які рыхтаваў этымалагічны слоўнік беларускай мовы, апублікаваў шэраг этымалогій асобных беларускіх слоў. Да пачатку 1960-х гадоў кампаратывісцкіх даследаванняў на Беларусі амаль не праводзілася. Выключэннем былі публікацыі М. І. Карнеевай-Петрулан, у якіх разглядаліся фанетычныя і акцэнталагічныя з'явы беларускай мовы на шырокай параўнальнай аснове.

Пазней праблемы беларускай і славянскай кампаратывістыкі распрацоўваліся ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі і на філалагічным факультэце БДУ. Шэраг артыкулаў і брашуру, якія прысвечаны генезісу і развіццю групавога сінгарманізму ў славянскіх мовах, надрукаваў У. К. Жураўлёў. Ім была выдадзена манаграфія «Развіццё групавога сінгарманізму ў праславянскай мове» (1963). У 1960—80-я гады Р. У. Краўчук апублікаваў значную колькасць артыкулаў і падрыхтаваў манаграфію «Нарысы па гісторыі чэшскага суфіксальнага словаўтварэння». П. І. Сігеда падрыхтаваў даследаванне «Сістэмы зычных фанем сербскахарвацкіх гаворак» (1966).

Шэраг славістычных даследаванняў зрабіў В. М. Чэкман. Яго манаграфія «Гісторыя проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ў беларускай мове» (1970) працягвала дыскусію аб генезісе цекання-дзекання, што мае вялікае значэнне для беларускай і славянскай параўнальнай фанетыкі. Вучоны шырока выкарыстоўвае даныя балгарскай і польскай, а таксама латышскай, македонскай, славенскай і венгерскай моў. Ён уводзіць у лінгвістычную навуку новую дынамічную універсалію: узнікненне палатальнага рада разглядаецца як вынік разбурэння тэмбравай карэляцыі.

У працы «Генезіс і эвалюцыя палатальнага рада ў праславянскай мове» (Даклад на VII Міжнародным з'ездзе славістаў у Варшаве, 1973) В. М. Чэкман даследуе этапы ўзнікнення палатальных зычных на аснове тыпалагічных і параўнальна-гістарычных даных. У гэтай і іншых працах аўтар тлумачыць шэраг старажытных фанетычных зрухаў у славян увогуле і ў беларусаў у прыватнасці міжмоўнай інтэрферэнцыяй славян і балтаў, славян і іранцаў.

У працах 1970-х гадоў В. М. Чэкман актыўна распрацоўвае праблему акання, падтрымлівае думку пра яго балтыйскае паходжанне. Паколькі тэрыторыя распаўсюджання акання наогул супадае са старой балтыйскай тэрыторыяй, пераканаўчай з'яўляецца гіпотэза даследчыка пра тое, што ўсходнеславянскае аканне ўзнікла ў выніку балта-славянскай інтэрферэнцыі.

Манаграфія В. М. Чэкмана «Даследаванні па гістарычнай фанетыцы праславянскай мовы: Тыпалогія і рэканструкцыя» (1979) прысвечана рэканструкцыі фаналагічнай сістэмы праславянскай мовы.

У 1970-я гады ў сектары агульнага і славянскага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства АН Беларусі выканана праца «Лексіка Палесся ў прасторы і часе» (1971; аўтары Г. Ф. Вештарт, Л. Ц. Выгонная, І. І. Лучыц-Федарэц, В. У. Мартынаў), непасрэдна звязаная з даваеннымі традыцыямі беларускай славянскай кампаратывістыкі.

У канцы 1960 — 1-й палове 70-х гадоў у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі праведзены шэраг сімпозіумаў па этымалагічнай тэматыцы. Іх матэрыялы апублікаваны ў кнігах «Беларуская лексікалогія і этымалогія» (1968), «Лексічныя балтызмы ў беларускай мове» (1969), «Беларуска-ўкраінскія ізалексы» (1971), «Беларуска-рускія ізалексы» (1973), «Беларуска-польскія ізалексы» (1975). Славістычныя канферэнцыі рэгулярна праводзяцца і ў БДУ. Значным дасягненнем беларускага мовазнаўства з'явілася выданне першых 8 тамоў «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (гл. **Этымалагічны слоўнік беларускай мовы**).

У 1970—90-я гады ў галіне славістыкі і кампаратывістыкі ў Беларусі актыўна працуюць В. У. Мартынаў, А. Я. Супрун, В. Л. Вярэніч, Г. А. Цыхун, Б. Ю. Норман, Р. М. Казлова, Р. М. Малько, У. С. Якавішын, К. М. Гюлумянц, Г. В. Пальцаў, В. А. Карпаў, А. М. Калюта, Н. В. Івашына, Н. Б. Мячкоўская, В. Ф. Крыўчык, Н. С. Мажэйка, Л. В. Ляонава і інш.

Развіваецца ў рэспубліцы і германістыка, якой прысвяцілі свае працы Г. Я. Панкрац, Т. С. Глушак, Ю. У. Папоў, С. М. Гайдучык, З. А. Харытончык, Д. Г. Багушэвіч, Б. І. Бранавіцкі, Я. М. Воўшын, А. М. Дзмітрыеў, М. І. Кускоў, В. А. Мальцаў, І. Г. Марголін, У. І. Марцінеўскі, Г. А. Мятлюк, Д. А. Парэмская, Я. Я. Родзічава, Т. М. Суша, В. І. Тур, А. К. Шчука, У. С. Якавішын і інш.

Праблемы раманскага мовазнаўства на Беларусі распрацоўвалі З. Н. Лявіт, А. М. Сцяпанава, Л. М. Скрэліна, У. М. Макараў, Я. І. Парэцкі, Г. К. Аляксеева, С. М. Батура, М. І. Берлін, Н. А. Ганчарова, І. В. Дзегцярэўская, М. П. Дзешавіцын, Т. Я. Зубава, Т. Г. Казачонак, В. В. Калеснікаў, Л. Ф. Кістанава, М. І. Лешчанка, Л. С. Селях, У. І. Сілецкі, Л. А. Сяднёва, М. В. Шарамета, С. А. Шашкова і інш.

Вывучэннем пытанняў этрускай мовы, якая з'яўляецца мовай старажытнага насельніцтва дарымскай Італіі, займаўся на Беларусі А. І. Харсекін. У Мінскім педінстытуце замежных моў выкладаюцца кітайская, арабская, турэцкая мовы, мова хіндзі і інш. Праблемамі албанскай мовы тут займаецца Л. Я. Дэмка.

Пытанням агульнага (тэарэтычнага) мовазнаўства прысвяцілі свае пра-

цы А. Я. Супрун, В. У. Мартынаў, А. Я. Міхневіч, А. І. Кісялеўскі, Б. Ю. Норман, М. А. Паўленка, Б. А. Плотнікаў, П. І. Копанеў, Н. Б. Мячкоўская, В. А. Маслава, В. М. Нікіцевіч, А. Л. Юрэвіч, Б. І. Касоўскі і інш. Праблемамі псіхалінгвістыкі займаецца Г. П. Кліменка, арэальнай лінгвістыкі — С. Г. Прахарава, Г. А. Цыхун, Л. Ц. Выгонная, Г. Ф. Вештарт, А. А. Крывіцкі і інш., структурнай лінгвістыкі — А. В. Зубаў, Г. П. Кліменка, А. Я. Міхневіч, Б. Ю. Норман, Б. А. Плотнікаў, Г. А. Цыхун і інш.

З 1960-х гадоў на Беларусі вядуцца даследаванні па эксперыментальнай фанетыцы (К. К. Барышнікава, С. М. Гайдучык, А. І. Далгарукава, Ю. А. Дубоўскі, Н. С. Еўчык, К. В. Зарэцкая, А. Б. Карнеўская, Н. І. Князева, Л. П. Марозава, К. А. Місуна, Г. А. Мятлюк, Н. Л. Навіцкая, Д. У. Новік, Т. В. Паплаўская, А. Ц. Петрушэнка, А. С. Селях, А. У. Таболіч, Р. С. Трохіна, Р. А. Шунтава і інш.). Акрамя аддзела эксперыментальнай фанетыкі Інстытута мовазнаўства АН Беларусі, які займаецца эксперыментальным вывучэннем фанетыкі беларускай мовы, гэтыя праблемы распрацоўваюць на кафедры тэарэтычнай і эксперыментальнай фанетыкі Мінскага лінгвістычнага універсітэта. Асноўныя з іх: даследаванне прасадычных (інтанацыйных) адзінак мовы, вызначэнне іх функцыянальнага статуса і сістэмнага характару прасодыі; вывучэнне фразавай прасодыі беларускай мовы; фонастылістычная дыферэнцыяцыя вусных выказванняў (тэкстаў); параўнальна-тыпалагічныя даследаванні фразавай прасодыі беларускай, рускай і замежных моў, а таксама прасадычная інтэрферэнцыя ў англійскай, нямецкай і французкай мове беларусаў і рускіх; прыкладныя даследаванні ў галіне шматмоўнага сінтэзу і ў галіне маўлення асоб з паслабленым слыхам. З аўтарам ідэі фанетычнага кадзіравання праф. О. Карнетам (ЗША) у Мінскім лінгвістычным універсітэце распрацоўваецца беларускі гукава-кінетычны код для дзяцей з паслабленым слыхам і маўленчымі здольнасцямі. Гэты код спалучае фанемы са спецыяльнымі колькасна абмежаванымі (у параўнанні з «пальцавай азбукай») рухамі, што дазваляе чалавеку весці паўнацэннае маўленчае жыццё. У Мінскім інстытуце замежных моў узнік цэлы фанетычны кірунак, які лінгвісты называюць «Мінскай фанетычнай школай».

Статыстычнаму вывучэнню розных натуральных моў на Беларусі прысвяцілі свае даследаванні Р. Г. Піятроўскі, А. Д. Барысевіч, А. В. Зубаў, К. Ф. Лук'яненкаў, В. А. Няхай, В. В. Нешытой, Г. П. Багуслаўская, Т. Ф. Кажанец, Н. І. Краўчук, А. М. Шаранда, А. Я. Супрун, Б. А. Плотнікаў, М. Г. Булахаў, В. А. Карпаў, М. Н. Крыўко, С. М. Грабчыкаў, Н. С. Мажэйка, А. І. Цітова і інш.

Даследуецца аўтаматычная перапрацоўка тэкстаў, машынны пераклад, выкарыстанне ЭВМ у навуковых даследаваннях і навучальным працэсе (А. В. Зубаў, В. М. Бялан, У. А. Буковіч, А. Я. Лісоўская, В. У. Мартынаў, В. В. Нешытой, Л. І. Трыбіс, І. І. Чугуева, Н. М. Шчасная, М. І. Ярмаш і інш.). Асноўнае дасягненне групы канкардансаў пры Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі — камп'ютэрны «Канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя».

Пры Мінскім лінгвістычным універсітэце пад кіраўніцтвам В. У. Мартынава працуе група (І. М. Бойка, Л. В. Варпаховіч, А. П. Гумінскі, С. У. Казлоўскі, С. М. Фурс), якая займаецца лінгвістычнымі праблемамі «штучнага інтэлекту».

З набыццём Рэспублікай Беларусь суверэнітэту перад беларускімі мовазнаўцамі паўстаюць новыя і вельмі актуальныя задачы, звязаныя з неабходнасцю распрацоўваць і праблемы беларускай мовы як мовы дзяржаўнай, і праблематыку іншых моў свету, што жыццёва неабходна для паўнакроўнага ажыццяўлення міжнародных кантактаў нашай дзяржавы.

*Літ.*: Глушак Т. С. Развіццё германістыкі ў Беларусі // Бел. лінгвістыка. Мн., 1972. Вып. 2; Яе ж. Стан і асноўныя напрамкі распрацоўкі лінгвастылістычнай праблематыкі ў мовазнаўстве Беларусі // Тамсама. 1979. Вып. 15; Лявіт З. Н., Макараў У. В. Развіццё раманістыкі ў Беларусі // Тамсама. 1973. Вып. 4; Мартынаў В. У. Развіццё славянскага мовазнаўства ў Беларусі // Тамсама. 1973. Вып. 3; Яго ж. Шляхі славянскай кампаратывістыкі ў Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1977. № 5; Барышнікава К. К., Падлужны А. І. Эксперыментальна-фанетычныя даследаванні ў Беларусі // Бел. лінгвістыка. Мн., 1974. Вып. 5; Плотнікаў Б. А. Статыстычныя даследаванні мовы ў Беларусі // Тамсама. 1975. Вып. 7; Аксамітаў А. С. Вывучэнне фразеалогіі ў Беларусі (1965—1980 гг.) // Тамсама. 1980. Вып. 18; Метлюк А. А. Научные исследования кафедры теоретической и экспериментальной фонетики Минского ГПИИЯ: (К 20-летию кафедры) // Проблемы автоматического и экспериментально-фонетического анализа текстов: Сб. науч. статей. Мн., 1986; Германович И. К., Михневич А. Е., Шуба П. П. Белорусско-русские языковые отношения: Контакты, двуязычие, методика обучения: (Материалы к библиографии) // Рус. язык. Мн., 1981—83. Вып. 1—3; Германович И. К., Шуба П. П. Белорусско-русские языковые отношения: Контакты, двуязычие, методика обучения: (Материалы к библиографии) // Тамсама. Мн., 1984—91. Вып. 4—11; Николаева О. М. Из истории изучения русско-белорусских языковых отношений // Русский язык в Белоруссии. Мн., 1985; Жураўскі А. І., Крывіцкі А. А. Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР. Мн., 1979; Беларускае мовазнаўства: Бібліягр. ўказ. (1825—1965 гг.). Мн., 1967; Беларускае мовазнаўства: Бібліягр. паказ. (1966—1975). Мн., 1980. *М. Н. Крыўко.*

## МОЎНАЯ АДУКАЦЫЯ

Адукацыя і асвета на Беларусі вядуць сваю храналогію з часоў Старажытнай Русі, якая ў сваю чаргу ўспрыняла духоўныя каштоўнасці Візантыі, потым узбагацілася заходнееўрапейскай навукай, усходнеславянскім пісьменствам і літаратурай. Пачатак славянскае пісьменства бярэ ў сярэдзіне 9 ст., калі Кірыла і Мяфодзій стварылі славянскую азбуку і пераклалі на старажытнаславянскую мову некаторыя богаслужэбныя кнігі. У той даўні час галоўную ролю ў культурна-адукацыйнай сферы адыгрывалі летапісы, граматы, жыціі, розныя іншыя тэксты.

Паслядоўнікамі Кірылы і Мяфодзія ў асветніцкай справе на Беларусі сталі Ефрасіння Полацкая, стваральніца рукапісных бібліятэк; Кірыла Тураўскі, пісьменнік, прапаведнік і майстар аратарскай прозы; Клімент Смаляціч, царкоўны дзеяч і мысліцель; Францыск Скарына, вучоны, пісьменнік, перакладчык, мастак, асветнік, заснавальнік беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Археалагічныя знаходкі ў розных мястэчках і гарадах Беларусі (прылады для пісьма, металічныя засцежкі ад пераплётаў кніг, берасцяныя граматы) даюць падставу гаварыць пра высокі ўзровень тагачаснага беларускага пісьменства, асабліва на землях старажытнай Полаччыны.

У 14—15 ст.— час зараджэння і станаўлення беларускай народнасці — ва ўжытку былі дзве пісьмовыя мовы — уласна беларуская (на старажытнарускай аснове) і царкоўнаславянская (усходнеславянскай, пазней беларускай рэдакцыі). Беларуская мова першапачаткова выкарыстоўвалася ў справаводстве і юрыспрудэнцыі, у жанрах свецка-мастацкай літаратуры і толькі значна пазней пранікла часткова ў рэлігійную сферу. У Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова афіцыйна мела статус дзяржаўнай, што спрыяла яе пашырэнню і развіццю, зараджэнню ўласна беларускага пісьменства і адукацыі. Царкоўнаславянская мова на працягу ўсяго старажытнага перыяду абслугоўвала рэлігійнае жыццё. З канца 16 — пачатку 17 ст. на Беларусі ў сферы справаводства і навукі пачалі распаўсюджвацца польская і лацінская мовы.

Ва ўмовах узмацнення паланізацыі і каталізацыі царкоўнаславянская мова зноў становіцца прадметам актыўнага вывучэння ў праваслаўных брацкіх школах і вучылішчах,

у процілегласць польскай і лацінскай, што выкладаліся ў езуіцкіх калегіях.

У брацкія школы дапаможным прадметам дапускалася «руская мова» (беларуская і ўкраінская). Часам нават рыторыка і дыялектыка перакладаліся на «рускую мову» для школьнага ўжытку, аднак да нашага часу такія пераклады не дайшлі. Выкладалася таксама старажытнагрэчаская мова для азнаямлення з арыгіналамі праваслаўнай царкоўнай літаратуры і паглыблення асветы.

Для авалодання царкоўнаславянскай мовай у праваслаўных брацкіх школах і вучылішчах патрабаваліся практычныя дапаможнікі. Створаныя як падручнікі буквары, граматыкі, слоўнікі і ўстанаўлівалі нормы царкоўнаславянскай мовы, і тлумачылі сродкамі народных гаворак незразумелыя царкоўнаславянскія словы і формы. Адным з першых дапаможнікаў быў буквар маскоўскага першадрукара Івана Фёдарава (Львоў, 1574), выдадзены «ради скорого младенческого научения». Граматыка Лаўрэнція Зізанія (Вільня, 1596) прызначалася для таго, каб «книги словенского языка добре читати и без вонтпливости розумѣти и право писати». Яна стала і ўзорам для пазнейшых складальнікаў граматык, і адной з галоўных прац у славянскай філалогіі. Граматыка Мялеція Смятрыцкага (Еўе, 1619), якую М. В. Ламаносаў назваў «вратами учености», амаль паўтара стагоддзя была ўзорным падручнікам (гл. **Буквары, Граматыка, «Граматыка» Л. Зізанія, «Граматыка» М. Смятрыцкага, «Лексікон славянароскі» П. Бярынды, «Лексіс» Л. Зізанія, «Лексіс з талкаваннем славянскіх моў проста»**).

У 1591 г. львоўскае брацтва надрукавала дапаможнік па вывучэнні грэчаскай мовы грэка-славянскую «Грамматику доброглаголиваго еллинословенского языка. Совершеннаго искуства осми частей слова. Ко наказанию многоименитому російскому роду».

Перакладная граматыка Элія Даната — найбольш распаўсюджаны ў сярэдневяковай Еўропе дапаможнік для вывучэння лацінскай мовы — з'явілася пазней.

Першы друкаваны слоўнік «Лексіс» Лаўрэнція Зізанія (Вільня, 1596) тлумачыў больш за 2 тысячы слоў. «Лексікон» Памвы Бярынды (Кіеў, 1627; Куцеінская друкарня, 1653) налічваў ужо каля 7 тысяч рэестравых слоў — агульнаўжывальных, уласных імён і іншых назваў «размаитыхъ диалектовъ: сирскаг(о), халдейскаг(о), еврейскаг(о), греческаг(о), латинскаг(о), и власного ншего славенскаго».

У канцы 16 ст. пачалі з'яўляцца і іншыя формы пазацаркоўнага навучання, у тым ліку прыватнае навучанне ў дамах феадалаў і гараджан. Так, вядома, што з 5-гадовага ўзросту вучыўся беларускай, польскай і іншым




**К. Міцкевіч (Якуб Колас). Методыка роднае мовы (вокладка). 1926.**

«навукам» дома (у Ляхавічах) Фёдар Еўлашоўскі. Пазней у сваіх мемуарах ён напіша, што ў той час вучылі толькі «наукою рускою, кгды жъ в тыхъ часехъ въ той нашей стороне не было еще иншихъ наукъ».

Аднак, нягледзячы на пэўны рост школьнай сеткі і пашырэнне навучальных праграм, пастаўленая на службу царквы канфесіянальная сістэма адукацыі ўжо не задавальняла патрэб грамадства. Развіццё міжнародных, палітычных, гандлёвых, культурных сувязей, усё большая неабходнасць у вывучэнні замежных моў і набыцці гуманітарных і прыродазнаўчых навук, уласныя патрэбы царквы садзейнічалі пашырэнню замежнай універсітэцкай адукацыі. Ягелонскі універсітэт у Кракаве на працягу 16 ст. падрыхтаваў больш за 217 «ліцвінаў» (беларусаў і літоўцаў) адміністрацыйнай і царкоўнай іерархіі Вялікага княства Літоўскага, а таксама асоб вольных прафесій. Больш трэці з іх дасягнула ступені бакалаўраў, каля 10 % — ступені магістраў «артиум» (філасофіі). Сярод запісаных ва універсітэт у першай палове 16 ст. былі Ф. Скарына і С. Будны. Значныя калоніі студэнтаў-«ліцвінаў» у 16—17 ст. існавалі ў Базелі, Вітэнбергу, Лейпцыгу, Падуі, Празе, Цюбінгене.

Пра важнасць валодання замежнымі мовамі сведчыць шэраг фактаў. Грамата караля Сігізмунда Аўгуста ад 30 лістапада 1569 г. на падараванне зямель Івану Кіркору адной з заслуг гэтага баярына называе тое, што ён «и в иншихъ речахъ службами своими згодити можетъ, бо у многихъ посторонних землях бывалы и в розныхъ язвековъ, турецкого, татарского, болгарского, берского и волоского умеетны». Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. (раздзел III, артыкул 16) неабходнасць вывучэння замежных моў называў сярод падстаў на дазвол маладым людзям выязджаць за мяжу.

У 1589 г. ў Лоскім друкарскім двары выйшла ў свет кніга Яна Ліцынія Намыслоўскага «Сентэнцыі для ўсеагульнага карыстання ў жыцці» (на лацінскай мове). Гэта быў зборнік з 225 павучанняў, дзе чаргаваліся розныя выказванні на лацінскай, польскай і нямецкай мовах. Паводле думкі даследчыка беларускай лацінскамоўнай літаратуры Я. Парэцкага, вучэбны дапаможнік Яна Ліцынія Намыслоўскага «можна лічыць першым падручнікам жывых замежных моў у тагачаснай Беларусі».

Па меры таго, як Вялікае княства Літоўскае паступова траціла палітычную самастойнасць і ўсё больш падпадала пад уладу Польшчы, пагаршаліся ўмовы для развіцця і існавання ўласнага пісьменства на Беларусі. З канца 16 ст. на беларускіх землях распаўсюджвалася лацінская мова, тады афіцыйная пісьмовая мова Польскай дзяржавы і каталіцкай царквы. Яна стала абавязковым школьным прадметам. Аднак незразумелая, чужая для «ліцвінаў», лацінская мова не змагла замацавацца ў якасці пісьмовай, бо з часам пачала паступова выцясняцца і ў самой Польшчы (гл. **Лацінская мова**).

Імклівае пашырэнне на Беларусі польскай мовы пачынаецца пасля Берасцейскага сабора 1596 г., на якім была заключана унія паміж праваслаўнай і каталіцкай царквой. Стваралася спецыфічная «кампрамісная» царква (у далейшым яна атрымала назву уніяцкай). Наколькі гэта была магутная плынь, сведчыць ужо хоць бы той факт, што нават брацкія школы і вучылішчы, гэтыя заўзятыя абаронцы праваслаўя і царкоўнаславянскай мовы, не змаглі процістаяць распаўсюджванню польскай мовы і ўхіліцца ад яе выкладання. Так, у грамаце караля Сігізмунда III (1589 г.) пра дазвол віленскім праваслаўным жыхарам адкрыць царкоўнае брацтва адзначаецца: «Въ школѣ тежъ братской дѣтей братьи уписное и убогихъ сиротъ языка и писма Руского, Греческого, Латинского и Польского накладомъ брацкимъ дармо учити повинни».

Старабеларуская літаратурная мова, на думку Я. Ф. Карскага, «...да канца XVII ст. так паланізавалася, што па сваім лексічным складзе стала мала адрозніваца ад польскай гаворкі» (К а р с к и й Е. Ф. Белорусы. Т. 3. Очерки словесности белорусского племени. [Кн.] 3. Художественная литература на народном языке. Пг., 1922. С. 3). Стваралася аснова для паслядоўнай замены на пісьме бела-

рускай мовы на польскую. У 1696 г. сейм Рэчы Паспалітай прыняў пастанову пра забарону карыстацца беларускай мовай у афіцыйнай перапісцы.

Такім чынам, на Беларусі доўгі час існавала своеасаблівая моўная сітуацыя, аналаг якой немагчыма знайсці ў іншых тагачасных краінах славянскага свету.— пісьмовае чатырохмоўе з размежаваннем у сферы функцыяніравання

У канцы 18 ст. пасля некалькіх падзелаў Рэчы Паспалітай землі Беларусі былі далучаны да Расіі. На гэты раз — замест паланізацыі і акаталічвання — тут пачалі праводзіць адкрытую палітыку русіфікацыі. Існуе шэраг дакументаў, што сведчаць пра забарону польскага і беларускага кнігадрукавання і вывучэння беларусамі і палякамі іх родных моў.

У абарону навучання на роднай мове выступалі многія пісьменнікі і паэты, перадавыя людзі свайго часу: Цётка (з яе палымяным артыкулам «Шануйце роднае слова!»), Ф. Багушэвіч, словы якога «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» надзённыя і сёння, Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, К.Каліноўскі і многія іншыя.

Да апошняга часу наша гісторыка-педагагічная літаратура адназначна заяўляла пра неіснаванне ў дакастрычніцкі час беларускамоўных школ. Тым не менш яны перыядычна з'яўляліся. Напрыклад, у вёсцы Люцынка, заснаваная В. Дуніным-Марцінкевічам. Тут у сярэдзіне 19 ст. атрымаў пачатковую адукацыю Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі). Школка працавала каля года і была закрыта мясцовымі ўладамі.

Царскі ўрад, мясцовая адміністрацыя не праяўлялі і не мелі зацікаўленасці ў стварэнні і развіцці беларускіх школ, сістэмы нацыянальнай адукацыі. Усе навучальныя ўстановы на Беларусі працавалі на рускай мове. Русіфікатарская палітыка прывяла да таго, што ў спадчыну ад царскай Расіі маладая Беларуская Рэспубліка атрымала немалы працэнт непісьменнага насельніцтва. З абвяшчэннем Дэкларацыі «Аб незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь» афіцыйна была прызнана роўнасць моў, якія функцыяніравалі на тэрыторыі рэспублікі.

Паступова на Беларусі пачала ствараецца сістэма полінацыянальнай школы. Акрамя школ беларускіх, якія ў канцы 1920 — пачатку 1930-х гадоў складалі 90 %, у рэспубліцы працавалі школы польскія (3,6 %), яўрэйскія (3,2 %), рускія (1,4 %), а таксама нямецкія, украінскія, латышскія, літоўскія і эстонскія. Кожны тып школ меў свой вучэбны план і свае праграмы, але беларуская мова ва ўсіх школах была абавязковым прадметам. У Наркамасвеце БССР быў беларускі аддзел, а пры мясцовых камісарыятах асветы — беларускія пададдзелы. У 1924 г. беларусізацыя паспяхова завяршылася ў найбольш масавай — пачатковай школе і актыўна працягвалася ў сямігадовай і сярэдняй (гл. **Беларусізацыя**).

Грамадска-палітычнае развіццё краіны паступова прывяло да унітарнай сістэмы народнай адукацыі. Нацыянальныя школы з іх разнастайнымі этнічнымі і культуралагічнымі асаблівасцямі праз пэўны час пераўтварыліся ў два уніфікаваныя тыпы школ: на пачатку 1980-х г. у рэспубліцы функцыяніравалі школы толькі з рускай і беларускай мовамі навучання. Шырока распаўсюджанай стала практыка вызвалення вучняў агульнаадукацыйных школ ад вывучэння беларускай мовы і літаратуры. І гэта нягледзячы на тое, што Беларусь — шматнацыянальная дзяржава, дзе паводле перапісу 1988 г. пражывала 10 152 тыс. чалавек, з іх беларусаў 7905 тыс., рускіх 1342 тыс., палякаў 418 тыс., украінцаў 291 тыс., яўрэяў 112 тыс., звыш 10 тыс. татар, каля 8 тыс. літоўцаў, каля 3 тыс. латышоў і інш.

У 1980—90-я гады зроблены пэўныя крокі ў кірунку рэформы адукацыі (нацыянальныя гімназіі, ліцэі, каледжы). Школа ад пачатковай да вышэйшай паступова становіцца неад'емнай часткай нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага і іншых народаў, што жывуць на тэрыторыі беларускай суверэннай дзяржавы.

Прыняты Вярхоўным Саветам рэспублікі Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», урадавая Дзяржаўная праграма яго рэалізацыі і распрацаваная Канцэпцыя моўнай адукацыі ў сярэдніх навучальных установах Беларусі гарантуюць кожнаму жыхару рэспублікі права на выхаванне і адукацыю на роднай мове, а таксама абавязковае вывучэнне адной з замежных моў (англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай і іншых). Гэтыя дакументы і акты забяспечваюць прававую аснову стварэння на Беларусі нацыянальнай сістэмы адукацыі.

Сучасная сістэма моўнай адукацыі павінна прадугледжваць задавальненне ўсіх моўна-камунікатыўных патрэбнасцей чалавека. Патрэбнасці ж гэтыя сёння — вельмі разнастайныя і разнапланавыя, бо мова (мовы) выступае не толькі як сродак зносін, але і як інструмент грамадскага развіцця, магутны фактар сацыялізацыі асобы і яе выхавання, як сродак пазнання навакольнага свету, неад'емны элемент нацыянальнай і сусветнай культуры і нават як аб'ект пераўтваральнай дзейнасці чалавека (стварэнне дапаможных моў рознага тыпу).

Арыентуючыся на розныя тыпы моў і — шырэй — на розныя тыпы знакавых сістэм, неабходных сучаснаму грамадству для поўнамаштабнай камунікацыі «ўсіх з усімі», на разнастайнасць камунікатыўных патрэбнасцей чалавека, можна вызначыць наступную прыкладную сістэму перспектыўнай моўна-камунікатыўнай адукацыі чалавека: родная мова ва ўсіх яе стылёва-функцыянальных, сацыяльных, жанравых і іншых разгалінаваннях; мовы міжнацыянальных зносін (англійская, руская і інш.); мовы бліжэйшых этнічных суседзяў — украінская, польская, літоўская, латышская), класічныя мовы (старажытнагрэчаская, лацінская), штучныя мовы розных тыпаў (эсперанта, алгарытмічныя мовы), «мовы» (знакавыя сістэмы) розных відаў мастацтва, спецыялізаваныя мовы навукі; дапаможныя знакавыя сістэмы, а таксама мовазнаўчая (лінгвафіласофская) адукацыя асобы. Развіццё, удасканаленне моўнай адукацыі чалавека — найважнейшая задача дзяржавы і грамадства.

*Літ.*: Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968; Жураўскі А. І. Двухмоўе і шматмоўе ў гісторыі Беларусі // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Парэцкі Я. І. Іўеўскі педагог Ян Ліцыній Намыслоўскі // Бел. літаратура. Мн., 1983. Вып. 11; Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажыт. часоў да 1917 г. Мн., 1985; Міхневіч А. Я. Чалавек і яго мовы // Бел. мова і літ. ў школе. 1988. № 3; Канцэпцыя моўнай адукацыі ў сярэдніх навучальных установах рэспублікі // Наст. газ. 1990. 10 кастр. *І. П. Казейка, А. Я. Міхневіч.*

## МОЎНЫ СЛЫХ

Моўны слых — гэта сукупнасць здольнасцей органа слыху і вышэйшай нервовай сістэмы распазнаваць гукі мовы і атаясамліваць словы на аснове іх акустычных якасцей, што з'яўляецца неабходным этапам у разуменні сэнсу сказанага.

Засвоіўшы фанетычную сістэму роднай мовы, чалавек пачынае ўспрымаць гукі любой іншай мовы пад моцным уздзеяннем гэтай сістэмы. У любым гуку чужой мовы слухач абавязкова знаходзіць рысы, суадносныя з пэўным гукам роднай мовы. Так, у беларускай мове многія зычныя бываюць цвёрдымі і мяккімі, і, успрымаючы, напрыклад, нямецкае слова *zieben*, беларус упэўнены, што мае справу з мяккім [з'], бо ў роднай мове перад [і] бывае толькі мяккі (з'). Наадварот, немец, успрымаючы беларускае *люблю*, будзе ўпэўнены, што пачуў (л'йубл'йу), таму што ў нямецкай мове няма проціпастаўлення цвёрдых і мяккіх гукаў, а мяккасць выдзяляецца ў асобны гук. Паколькі большасці гаворак беларускай мовы невядомы мяккі (р'), беларусы, якія гавораць па-руску, вельмі часта робяць няпоўнае змякчэнне (р) у словах тыпу *рисунок, рябина, репка.* Усе беларусы ў гэтым выпадку атаясамлі-

ваюць гэты (р') няпоўнага змякчэння з мяккім (р'), рускія ж суадносяць яго з цвёрдым (р) і робяць заключэнне аб беларускім акцэнце ў вымаўленні.

Носьбіты шэрага гаворак нашай мовы не аглушаюць у вымаўленні звонкія зычныя ў канцы слоў і перад глухімі зычнымі, вымаўляючы [коз], [ножка], што не адпавядае літаратурнай норме. Яны звычайна не чуюць аглушэння звонкіх і тады, калі вымаўленне літаратурнае.

Ва ўсіх падобных выпадках пачутае суадносіцца з раней набытымі звычкамі ўласнага слыху і вымаўлення. Істотную ролю ў гэтым працэсе адыгрывае той факт, што гукі ўспрымаюцца не самі па сабе, а дзеля таго, каб распазнаць сэнсавыя адзінкі мовы (марфемы, словы і г. д.), а таксама высокая верагоднасць з'яўлення гукавых і сэнсавых адзінак, калі папярэднія ўжо распазнаны. У выніку слухач у стане ўзнавіць нават тыя гукавыя элементы, якія па той або іншай прычыне наогул не былі ўспрыняты слыхам. Чым больш знаёмая тэма гаворкі і чым больш знаёмыя словы ўжываюцца для яе раскрыцця, тым з меншым напружаннем слухач успрымае вусную мову. Гэтым абумоўліваецца высокая ўстойлівасць успрымання мовы нават пры наяўнасці розных перашкод (напрыклад, шуму або зніжэння слыху).

Успрыманне інтанацыйных асаблівасцей маўлення ў той частцы, якая звязана з выражэннем сэнсавых і стылістычных адрозненняў (інтанацыя пытальная, пабуджальная, завершанасці або незавершанасці думкі і г. д.), пераважна характарызуецца тымі ж асаблівасцямі, што і ўспрыманне гукаў. Але паколькі інтанацыя распаўсюджваецца на вялікія адрэзкі гучання, яна аказваецца больш устойлівай ва ўспрыманні, чым успрыманне гукаў: пры значным узроўні знешніх перашкод слухач у стане пазнаць інтанацыйную канструкцыю нават у тым выпадку, калі гукі становяцца ўжо неразборлівымі.

Слыхавое ўспрыманне асаблівасцей вуснай мовы, што характарызуюць эмацыянальны стан чалавека (іх таксама часта адносяць да інтанацыйных сродкаў), больш падобна на ўспрыманне нямоўных сігналаў, чым гукаў і інтанацыі.

Чалавек на слых можа даваць ацэнку, наколькі пачутая ім гаворка натуральная па гучанні і наколькі яна адхіляецца ад арфаэпічных норм літаратурнага вымаўлення. Найбольш адчувальны моўны слых да адхіленняў у вымаўленні зычных гукаў. Адхіленні ў вымаўленні галосных заўважаюцца горш. Менш за ўсё фіксуюцца слыхам недакладнасці ў інтанацыйным афармленні фраз. Разам з тым недакладнасць месца націску ў слове заўважаецца лёгка.

Існуе з'ява слыхавой адаптацыі носьбіта мовы да некаторых адхіленняў ад літаратурнага вымаўлення. Звычайна пасля 3—6 мінут успрымання новай гаворкі чалавек перастае свядома рэагаваць на своеасаблівую яе інтанацыю ці тэмп, адаптуецца да окаючага або акаючага вымаўлення, картавасці ці шапялявасці мовы гаворачай асобы. Гэта адбываецца тады, калі слухач не сочыць за арфаэпіяй, а сочыць толькі за сэнсам паведамлення і лёгка яго ўспрымае. Беларускую літаратурную мову ў вуснай форме даводзіцца чуць у тэатры, па радыё, тэлебачанні, у кіно. Звычайны слухач заўважае асаблівасці гаворкі толькі першыя хвіліны. Затым паступова ён усё менш рэагуе на іх. Адаптацыя развіваецца яшчэ хутчэй, калі чалавек адначасова з вуснай атрымлівае зрокавую інфармацыю: глядзіць на тэле- або кінаэкран, бачыць субяседніка.

Моўны слых проціпастаўляецца нямоўнаму, калі ўспрымаюцца розныя гукавыя сігналы навакольнага асяроддзя або музыка. У гэтым выпадку толькі фізічныя ўласцівасці сігналаў могуць быць асновай іх успрымання. Аднак і ў нямоўных гуках чалавек схільны ўлоўліваць пэўныя моўныя асаблівасці і на гэтай аснове перадаваць іх з дапамогай гукаў мовы. Так, жабы для нас як бы гавораць *ква-ква*, колы вагонаў выстукваюць *тах-тах-тарарах*, бубен выбівае *бом-бом*, певень крычыць *ку-ка-рэ-ку* і г. д. На гэтай аснове ўзнікае гукаперайманне (анаматапея), якое ляжыць у аснове многіх слоў. У розных мовах, аднак, яны не супадаюць. Так, англічане лічаць, што певень спявае *cock-a-doodle-doo* (кокэдудлду), а палякі — што жабы гавораць *kum-kum* (кумкум). Наяўнасць гукаперайманняў у мовах з'яўляецца яшчэ адным доказам рэальнасці моўнага слыху, які фарміруецца пад уздзеяннем роднай мовы.

*Літ.*: Фанетыка беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1989.

*А. І. Падлужны, Г. В. Лосік.*

## МУРАШКА АНЦІНЕЯ РЫГОРАЎНА

Беларускі мовазнаўца А. Р. Мурашка нарадзілася 15 кастрычніка 1924 г. ў в. Кірава Слуцкага раёна Мінскай вобласці. З 1927 г. жыла з бацькамі ў Мінску. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, была эвакуіравана ў г. Хвалынск Саратаўскай вобласці. Выхоўвалася ў дзіцячым доме. Там закончыла сярэднюю школу і адзін год працавала выхавальніцай у інтэрнаце г. Чыстопаль Татарскай АССР, затым паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пасля заканчэння БДУ (1948) займалася даследчыцкай работай у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР на пасадзе малодшага, потым старшага навуковага супрацоўніка сектара дыялекталогіі. З 1963 г. дацэнт кафедры рускай мовы Белдзяржуніверсітэта. Адначасова (1978—80) узначальвала кафедру рускай мовы для замежных студэнтаў. Па запрашэнні працавала выкладчыкам у ПНР (1971—73), на Кубе (1982—84).

Асноўным аб'ектам навуковых даследаванняў А. Р. Мурашкі з'яўляецца беларуская дыялекталогія. У 1958 г. яна абараніла кандыдацкую дысертацыю аб формах прыметнікаў у беларускіх гаворках. Па тэме дысертацыі і іншых праблемах беларускай дыялекталогіі (лексічныя і граматычныя асаблівасці беларускіх гаворак, узаемадзеянне іх з беларускай літаратурнай мовай і гаворкамі суседніх славянскіх і неславянскіх моў) апублікавала шэраг артыкулаў. Удзельнічала ў стварэнні прац «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі» (1962), «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1969). За працы па беларускай лінгвагеаграфіі разам з іншымі аўтарамі ўдастоена Дзяржаўнай прэміі СССР (1971).

*Тв.*: Кароткія формы прыметнікаў у беларускіх гаворках // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1958. № 2; Склонавыя формы якасных і адносных прыметнікаў у беларускіх гаворках // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1958. Вып. 5; Ступені параўнання якасных прыметнікаў: (Па матэрыялах Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы) // Тамсама. 1961. Вып. 8; Взаимодействие между белорусским национальным литературным языком и народными говорами (разам з Ю. Ф. Мацкевіч, Г. У. Аращонкавай) // Вопросы образования восточнославянских национальных языков. М., 1962; O niektórych gramatycznych osobliwościach gwar białoruskich (разам з Мацкевіч, А. Абрэмскай-Яблонскай) // Slavia Orientalis, 1962, Nr 1; Некаторыя асаблівасці мовы беларускага выдання твораў У. І. Леніна // Весн. БДУ. Сер. 4. 1970. № 2; Вопросы белорусско-русской языковой интерференции при изучении курса современного русского языка в белорусских вузах (разам з Г. У. Паповай) // Тамсама. 1973. Nr 1; До питання про класифікацію білоруських говорів (разам з Аращонкавай) // Праці XI республіканської діалектологичної наради. Київ, 1965; Преодоление интерференции в процессе обучения русскому языку как иностранному (разам з А. У. Саннікавай) // Весн. БДУ. Сер. 4. 1981. № 3; Беларуская метэаралагічная лексіка // Тамсама. 1982. № 2.

*І. К. Германовіч.*

## МУХЛІНСКІ АНТОН ВОСІПАВІЧ

А. В. Мухлінскі нарадзіўся ў 1808 г. на Навагрудчыне. Прафесар цюркалогіі (1839). З 1822 г. вучыўся ў Віленскім, з 1828 г.— у Пецярбургскім уні-

версітэтах. У 1835—63 гг. у Пецярбургскім універсітэце выкладаў арабскую і турэцкую мовы, гісторыю і геаграфію Турцыі, быў дэканам факультэта ўсходніх моў (1859—66). Памёр 25 кастрычніка 1877 г.

А. В. Мухлінскі адкрыў і выдаў арабскі геаграфічны рукапіс 9 ст. ал-Йакубі. Ён — аўтар шматлікіх прац па арыенталістыцы. З яго кнігі «Даследаванне пра паходжанне і стан літоўскіх татар» (1857) пачынаецца навуковае вывучэнне беларускіх тэкстаў, напісаных арабскім пісьмом, у т. л. кітабаў. А. В. Мухлінскі лічыцца іх першаадкрывальнікам, паколькі даў транслітарацыю асобных урыўкаў з кітабаў. У яго манаграфіі падаюцца звесткі з гісторыі пасялення татар у Вялікім княстве Літоўскім, кароткае апісанне быту, звычаяў татар, статыстычныя звесткі, з якіх вынікае, што ў сярэдзіне 19 ст. пераважная большасць татар жыла ў чатырох губернях — Мінскай, Гродзенскай, Ковенскай, Віленскай. У гэтай працы А. В. Мухлінскі перакладае з турэцкай мовы ананімны твор 1557—58 гг. «Рысале...», у якім, у прыватнасці, раілася татарам, якія забылі сваю родную мову, гаварыць па-беларуску.

А. В. Мухлінскі — аўтар прац: «Асманская хрэстаматыя для універсітэцкага выкладання» (1858—59), «Слоўнік выразаў, якія прыйшлі... у нашу мову з усходніх моў» (1858), «Выбар турэцкіх артыкулаў для пачатковага перакладу з граматычным разборам» (1858) і інш.

*Літ.*: Крачковский И. Ю. Очерки по истории русской арабистики // Крачковский Ю. И. Избр. соч. Т. 5. М.; Л., 1950; 2 выд. 1958; Kotwicz Wl., Kotwiczówna M. Orientalista Antoni Muchliński: Życie i dziela. Wilno, 1935.

*В. І. Несцяровіч.*

## МЭЕ ПІТАР ДЖОН

Англійскі мовазнавец-славіст П. Дж. Мэё нарадзіўся 16 лютага 1944 г. ў г. Ілфард (цяпер Лондан). Скончыў Бірмінгемскі універсітэт (1966). Быў аспірантам Маскоўскага універсітэта (1966—67). Доктар філалогіі (1982, доктарская дысертацыя прысвечана марфалогіі рускай мовы 17 ст.). З 1969 г. выкладчык кафедры рускай мовы і славянскіх даследаванняў Шэфілдскага універсітэта. Чытаў курсы стараславянскай, рускай, беларускай, сербскахарвацкай моў, гісторыі рускай мовы і мовазнаўства, параўнальнай славянскай філалогіі, перакладу і інш. Член Англа-беларускага таварыства ў Вялікабрытаніі, дзе неаднаразова выступаў з лекцыямі пра беларускую мову, літаратуру, культуру. У 1979—89 гг. П. Дж. Мэё — рэдактар лонданскага «The Journal of Byelorussian Studies» («Часопіс беларускіх даследаванняў»), дзе друкуецца з 1972 г. З 1989 г. ён рэдагаваў славянскі аддзел у «Modern Language Studies» («Часопіс сучасных лінгвістычных даследаванняў»), з 1992 г.— галоўны рэдактар гэтага выдання, дзе змяшчае шматлікія матэрыялы па беларускай мове і літаратуры.

«Граматыка беларускай мовы» (Шэфілд, 1976) П. Дж. Мэё, падрыхтаваная на аснове курса лекцый па параўнальнай славянскай філалогіі і выдадзеная Англа-беларускім таварыствам сумесна з кафедрай рускай мовы і славянскіх даследаванняў Шэфілдскага універсітэта,— дапаможнік па марфалогіі, у якім разглядаюцца таксама пытанні арфаэпіі і фанетыкі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Аўтар даволі падрабязна знаёміць чытача з тыпамі скланення назоўнікаў, спражэння дзеясловаў, катэгорыяй трывання, неазначальнай формай дзеяслова, службовымі часцінамі беларускай мовы. У дапаможніку для супастаўлення шырока выкарыстаны матэрыялы рускай і ўкраінскай моў.

У англійскіх навуковых выданнях П. Дж. Мэё змясціў шэраг рэцэнзій на беларускія мовазнаўчыя даследаванні, падручнікі, слоўнікі М. К. Клышкі, Н. С. Мажэйкі і А. Я. Супруна, М. В. Абабуркі, А. І. Болсуна і Я. Н. Рапановіча, Т. С. Янковай і інш.

*Тв.*: Anomalous spelling in Byelorussian: the replacement of e by я in poststress syllables // The Journal of Byelorussian Studies. 1975. Vol. 3, № 3; Recent development in the Norms of the Byelorussian Literary Language // Тамсама. 1975. Vol. 3, № 3; The Alphabet and Orthography of Byelorussian in the 20th Centuru // Тамсама. 1977. Vol. 4, № 1; Byelorussian Orthography: from the 1933 Reform to the Present Day // Тамсама. 1978. Vol. 4, № 2; Whither Modern Byelorussian Lexis? // Тамсама. 1984. Vol. 5, № 3—4; The Case Governed by the Preposition па in Byelorussian // Тамсама. 1988. Vol. 6, № 1; The Byelorussian language: its rise and fall and rise and...? // Papers in Slavonic Linguistics. Birmingham, 1982; Belorussian Lexicography // Wörterbücher: Ein internationales Handbuch zur Lexikographie. Berlin; New York, 1990.

*Т. М. Суша, І. У. Саламевіч.*

| | |
|---|---|
| Н | Устаў 11 ст. |
| Н | Паўустаў 15 ст. |
| Н | Паўустаў 16 ст. |
| Н | Паўустаў 17 ст. |
| Н | Скорапіс 15 ст. |
| Н | Скорапіс 16 ст. |
| Нн | Скорапіс 17 ст. |
| Нн | Ф.Скарыны 16 ст. |
| Нн | Статута ВКЛ 1588 г. |
| Нн | Друкаваная 17 ст. |
| Н | Грамадзянская 18 ст. |

*Дзяды і бацькі нашу мову стваралі,*
*Каб звонка звінела, была, як агонь,*
*У сёлаў імёны, як гукі цымбалаў,—*
*Блонь,*
*Струнь,*
*Звонь!*

Пятрусь Броўка



**Н** — *пятнаццатая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай* N *(«наш»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай* N *(«ні»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* н, н' (назвати, небо). *Мела таксама лічбавае значэнне «пяцьдзесят». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваццa як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае санорныя змычна-праходныя пярэднеязычныя зычныя гукі* н, н' (нага, назоўнік — *«назоўн'ік»*, ніва — *«н'іва»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (НЗ, НТР), як умоўнае скарачэнне (н. э.— новая эра). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «чатырнаццаты» (група «Н»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (пункт № 9н).*

*А. М. Булыка.*

## НАВУКОВЫ СТЫЛЬ

Навуковы стыль выкарыстоўваецца ў сферы навукі, тэхнікі і навучання. Гэта стыль навуковых прац, падручнікаў і лекцый па навучальных дысцыплінах. Асноўная функцыя навуковай мовы — доказны выклад навуковай інфармацыі, дакладнае і строга лагічнае выказванне думкі. Гэтай функцыяй абумоўліваецца спецыфіка навуковага стылю, перш за ўсё такія вызначальныя рысы, як абагульненасць і адцягненасць. У галіне лексікі навуковы стыль характарызуецца шырокім ужываннем навуковых і тэхнічных тэрмінаў, аднaзначных, нявобразных слоў. Амаль кожнае слова ў навуковым тэксце абазначае паняцце. Напрыклад, у фармулёўцы фізічнага закону Архімеда так ужыты словы *гідрастатыка, цела, вадкасць, газ, аб'ём* і іншыя: ***Архімеда закон,*** *асноўны закон гідрастатыкі і аэрастатыкі, паводле якога на ўсякае цела, апушчанае ў вадкасць (або газ), дзейнічае выштурхная сіла («пад'ёмная сіла»), накіраваная ўверх, роўная па велічыні вазе выцiснутай гэтым целам вадкасці (газу) і прыкладзеная да цэнтра цяжару выцiснутага аб'ёму* (БелСЭ).

У навуковым тэксце і канкрэтная лексіка служыць для выражэння агульных паняццяў: ***Хата,*** *жылая пабудова, пераважна зробленая з дрэва. Як тып жылля гістарычна развілася ад будана і зямлянкі да наземнай пабудовы* (БелСЭ). Тут назоўнік *хата* абазначае не адзінкавы канкрэтны прадмет, а род адпаведных будынкаў, выражае агульнае паняцце. Параўнаем энцыклапедычнае вызначэнне хаты з мастацкім апісаннем: *Па-над Прыпяццю між лясоў, пяскоў і балот туліцца невялічкая вёсачка, хат можа так трыццаць ці сорак, і хаты няроўныя тут, як і людзі: адна большая, другая меншая, старэйшая ці навейшая. Але хата дзеда Талаша ўсё ж такі зварачае на сябе ўвагу. Не так знадворным выглядам, як адзіноцтвам: стаіць яна наводшыбе і ў блізкім суседстве з хмызняком ускрай балота. Побач з хатай, прыкрываючы яе ад летняга сонца, красуецца высокая разложыстая груша. Вясною, усыпаная белым цветам, як маладая дзяўчына, яна проста аздабляе дзедаў двор і не толькі дзед Талаш, а і бусел з гнязда, змайстраванага на дзедавай клуні, залюбуецца ёю* (Я. Колас). Аўтар падрабязна не апісвае знадворнага выгляду дзедавай хаты. І ўсё ж яе лёгка адрозніць ад іншых вясковых хатаў дзякуючы адметнасці падворка (высокая разложыстая груша, буслава гняздо на клуні). Індывідуальна-канкрэтны, запамінальны вобраз Талашовай хаты робіць эмацыянальнае ўздзеянне на чытача. У тэксце з БелСЭ слова *хата* не выконвае вобразна-ацэначнай функцыі, дае толькі паняцце пра тып пабудовы.

Навуковаму стылю ўласціва спецыфічнае ўжыванне сродкаў марфалогіі і сінтаксісу. Так, абстрактныя і рэчыўныя назоўнікі могуць набываць форму множнага ліку: *велічыні, даўжыні, алеі, бензіны, гліны.* Адцягненасцю і абагульненасцю навуковай мовы тлумачыцца насычанасць яе назоўнікамі ніякага роду з абстрактным значэннем *(высвятленне, размеркаванне, утварэнне)*, ужыванне зваротаў з аддзеяслоўнымі назоўнікамі *(рабіць уздзеянне, правесці назіранне, прыйсці да вываду)*, частае нанізванне родных склонаў *(дзейнасць законаў фармальнай логікі, выкарыстанне раслінай вільгаці мацярынскага клубня)*. У навуковай мове пераважаюць назоўнікі, гэта сведчыць пра тое, што ёй уласцівы іменны характар. Яе галоўная задача — абазначыць, апісаць з'яву. Адзначаныя моўнастылёвыя прыкметы добра заўважаюцца ў тэксце: *Расліна бульбы вельмі адчувальная да раптоўных зменаў тэмпературы, на адхіленні ад яе оптымуму рэагуе змяненнем многіх сваіх функцый. З гэтай прычыны змены тэмпературных рэжымаў ва ўмовах клімату на працягу вегетацыі часта выклікаюць паніжэнне або поўнае спыненне нарошчвання клубняў, што ўрэшце адбіваецца на ўраджаі* (А. С. Вечар, М. М. Ганчарык).

Адна з характэрных рыс навуковага стылю — выкарыстанне дзеясловаў цяперашняга часу з якасным значэннем для паказу ўласцівасцей і прыкмет прадметаў і з'яў: *Вуглевадароды гараць на паветры, вылучаючы вялікую колькасць цеплыні* (Л. А. Цвяткоў). Тут дзеяслоў *гараць* абазначае не дзеянне, што адбываец-

ца ў момант гутаркі пра яго, а ўласцівасць прадмета. У навуковай мове сярод дзеясловаў-выказнікаў пераважаюць формы 3-й асобы, выкарыстоўваюцца займеннікі *ён, яна, яно, яны*, якія звычайна паказваюць на абстрактныя паняцці. Формы 2-й асобы і займеннікі *ты, вы*, як найбольш канкрэтныя, амаль не сустракаюцца.

Паслядоўнасць, прычынна-выніковая сувязь пэўных з'яў часта перадаецца спалучэннямі з прыназоўнікамі *з прычыны, у сувязі, у выніку* і пад., а таксама пры дапамозе пабочных слоў, якія раскрываюць парадак думак і іх сувязь: *па-першае, па-другое, такім чынам, з аднаго боку* і інш.

Дакладнасць, грунтоўнасць апісання прадметаў і з'яў, сістэматызацыя і аналіз фактаў патрабуюць выкарыстання сказаў з аднароднымі членамі, абагульняльнымі словамі, з дзеепрыметнымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі. Для навуковага стылю характэрны разнастайныя паводле структуры складаназалежныя сказы са злучнікавай сувяззю, з прамым парадкам слоў. Інфармацыйна-апавядальны спосаб выкладу ў навуковым тэксце абумоўлівае тое, што ў ім амаль не сустракаем клічных і пытальных сказаў.

Характар і сукупнасць моўных сродкаў, якія ўжываюцца ў навуковым тэксце, у пэўнай меры залежаць ад галіны ведаў. Прачытаем урывак з філалагічнай працы: *Фразеалагічная норма — гэта традыцыйнае, замацаванае моўнай практыкай, аднатыпнае і раўнацэннае ўжыванне фразеалагізмаў, прынятае ў даны перыяд моўным калектывам і ўсвядомленае ім як правільнае і ўзорнае. У паняцце фразеалагічнай нормы ўваходзяць правільнасць выбару фразеалагізма, аптымальнасць яго прымянення з захаваннем уласцівых яму асаблівасцей. Моўная практыка замацавала за кожным фразеалагізмам пэўнае значэнне ці значэнні, кампанентны склад, структурную арганізацыю, лексіка-граматычную спалучальнасць са словамі ў сказе. Некаторыя фразеалагізмы маюць рэліктавыя кампаненты (напрыклад,* **напраміл бог**), *спецыфічныя акцэнталагічныя ўласцівасці* **(шапкамі закідаць)**, *своеасаблівую арфаграфію* **(збоку прыпёку)** і *пунктуацыю* **(то бокам то скокам)**, *якія не падтрымліваюцца сістэмнымі адносінамі мовы* (І. Я. Лепешаў). У тэксце шмат тэрмінаў з мовазнаўства: *фразеалагізм, акцэнталагічны, сказ, пунктуацыя* і інш. Ёсць тут і нетэрміналагічныя словы з адцягненым значэннем: *правільнасць, аптымальнасць, асаблівасць* і інш. Пераважае кніжная лексіка. Выклад вызначаецца строгай лагічнасцю, паслядоўнасцю. Аўтар дае азначэнне фразеалагічнай нормы, якое далей канкрэтызуецца і дапаўняецца шляхам выкарыстання шэрага лінгвістычных паняццяў. А гэта ў сваю чаргу прадыктавала некаторыя граматычныя асаблівасці мовы, у прыватнасці, ужыванне сказаў з аднароднымі членамі. Аб'ектыўнасць навуковых сцверджанняў забяспечваецца апорай на маўленчую практыку грамадства. Тэкст пазбаўлены эмацыянальнай афарбоўкі, словы ўжыты з прамым значэннем. Аднак катэгарычна адмаўляць вобразнасць і эмацыянальнасць у навуковай мове неправамерна. Гэтыя стылістычныя якасці ўласцівы навуковым творам палемічнай накіраванасці, але найпаўней выяўляюцца ў навукова-навучальным і навукова-папулярным падстылях. Так, у навукова-папулярнай літаратуры, што адрасуецца вучням сярэдняй школы, выкарыстоўваюцца сродкі, якія не толькі даюць магчымасць дасягнуць дакладнасці, доказнасці выкладу, але і надаць вобразнасць, выразнасць мове, актывізуюць увагу чытача і яго лагічнае мысленне. Прыклад з кнігі Г. Кісялёва «Паплечнік Каліноўскага» (пра В. Урублеўскага): *15 жніўня 1863 года... камандуючым усімі паўстанцкімі ўзброенымі сіламі Гродзеншчыны... становіцца Валерый Урублеўскі.*

*Урублеўскі ўводзіць новую тактыку, фарміруе невялікія «выканаўчыя» атрады па 20—30 чалавек на чале з паваротлівымі людзьмі і рассылае іх з Глыбокага Кута, дзе быў у той час паўстанцкі лагер, у вёскі з інструкцыяй разганяць царскую паліцыю, чытаць паўстанцкі маніфест, надзяляць сялян зямлёй, здзяйсняць волю рэвалюцыі. Інструкцыя прадпісвала чытаць маніфест па-беларуску. У паўночную частку Ваўкавыскага павета адправіўся «Янка з-пад Гродна», у паўднёвую — «Юзюк з Беластока», у Шэрашаў — «Марэль», у Белавежскую пушчу — «Галабурда». У загадах, дзеяннях Урублеўскага пульсуе адна думка: галоўнае — сувязь з народам. Без яе гібель. Ды і навошта паўстанне, калі няма спачування і падтрымкі народа?..*

*Імя няўлоўнага, таленавітага паўстанцкага камандзіра Урублеўскага грымела па ўсёй Беларусі і Літве.*

Дакладнасць дасягаецца ўжываннем лічэбніка (для абазначэння даты і колькасці), уласных назваў, якімі акрэсліваецца месца дзеянняў паўстанцаў. Шмат слоў, якія абазначаюць вайсковыя і грамадска-палітычныя паняцці: *камандуючы, узброеныя сілы, тактыка, паўстанцкі лагер, маніфест* і інш. У тэксце выкарыстаны сродкі, якія ажыўляюць выклад, робяць яго вобразным і эмацыянальным: рытарычнае пытанне, бяззлучнікавы сказ, метафары *(пульсуе думка, імя грымела)*, стылістычна ўзвышаны выраз *здзяйсняць волю рэвалюцыі*, экспрэсіўнае ў навуковым кантэксце слова *паваротлівы* (замест нейтральнага *энергічны*).

Ступень эмацыянальнасці і экспрэсіўнасці навуковай мовы залежыць ад аўтарскай індывідуальнасці, а таксама ад галіны навукі і жанру. У працах грамадска-палітычнага цыкла яна самая высокая, у фізіка-матэматычных — самая нізкая.

*Літ.:* Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1992; Кожина М. Н. Стилистика русского языка. М., 1977; 2 изд. 1983; Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976; Юрэвіч А. К. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1983. *А. А. Каўрус.*

## НАЗОЎНІК

Назоўнік — гэта часціна мовы, для якой характэрна абагульненае значэнне прадметнасці. Гістарычна назоўнікі як самастойны клас слоў не вылучаліся. Разам з іншымі скланяльнымі словамі яны адносіліся да разраду імёнаў, якія формамі словазмянення і іншымі граматычнымі адзнакамі процiпастаўляліся другой буйной часціне мовы — дзеяслову як спрагальнай групе слоў. Аднак па меры станаўлення і развіцця пэўных граматычных і лексіка-граматычных катэгорый, форм словазмянення і словаўтварэння з агульнага недыферэнцыраванага ў мінулым імені сталі вылучацца назоўнікі, прыметнікі, займеннікі, а пасля і лічэбнікі. Так сфарміравалася сістэма іменных часцін мовы з уласцівымі ім граматычнымі асаблівасцямі.

Назоўнік як асобны самастойны лексіка-граматычны разрад знамянальных слоў характарызуецца адметнасцю лексічных, граматычных і функцыянальных прыкмет, слова- і формаўтваральных асаблівасцей, сінтаксічных адзнак і функцый у сказе. У лексічным значэнні назоўніка адлюстроўваецца змястоўная сутнасць паняцця, яго рэальны змест, сэнс, у граматычным значэнні — марфалагічныя адзнакі слова, яго структурны склад, форма, будова. Лексічныя значэнні назоўнікаў індывідуальныя для кожнага асобнага слова, хоць і маюць адну агульную семантычную аснову прадметнасці; граматычныя ж значэнні, наадварот, уласцівы цэлым класам ці групам назоўнікаў і не звязаны непасрэдна з лексічнымі значэннямі асобных слоў, што ўваходзяць у іх склад.

Назоўнікі валодаюць разгалінаванай сістэмай граматычных катэгорый і форм, якія дазваляюць ім выконваць у мове разнастайныя сінтаксічныя функцыі, маюць уласную сістэму структураўтваральных элементаў і вызначаюцца багаццем значэнняў і іх адценняў. Яны могуць абазначаць: асоб па іх імёнах, прозвішчах, псеўданімах, мянушках, па іх занятку, дзейнасці, прафесіі, пасадзе, спецыяльнасці, званні, сацыяльнай прыналежнасці, полу, узросту, нацыянальнасці і г. д. *(Сяргей, брыгадзір, селянін, цясляр, хлапец, беларус)*, прадстаўнікоў жывёльнага і раслін-

нага свету — фауны *(зубр, дзяцел, авадзень, уюн)* і флоры *(дуб, явар, мох, грыб)*, з'явы прыроды, стыхійныя бедствы, поры года, часавыя прамежкі, перыяды *(дождж, гром, світанне, паводка, буран, сезон)*, прасторавыя паняцці, напрамкі, часткі свету, мясцовасці, масівы, населеныя пункты, прыродныя ўтварэнні, выкапні, рэчывы *(галактыка, Антарктыда, Усход, небасхіл, акіян, узвышша, мінерал)*, прадметы вытворчасці, прылады, прыстасаванні, вырабы *(станок, плуг, кросны, фуганак, дыван, карункі)*, прадпрыемствы, установы, арганізацыі, аб'яднанні *(завод, клуб, брыгада, звяно, суполка, грамада)*, падзеі, грамадскія з'явы, рух, ідэі, вучэнні, дзяржаўныя органы, формы кіраўніцтва *(бунт, забастоўка, дэманстрацыя, вайна, рэвалюцыя)*, разумовыя паняцці, уяўленні *(думка, свядомасць, тэзіс, аргумент)*, адцягненыя якасці, уласцівасці, адносіны, ацэнкі *(прыгажосць, сціпласць, дабрыня, дабрачыннасць, міласэрнасць, клопат)*, станы, адчуванні, апрадмечаныя дзеянні, працэсы *(сон, гнеў, боль, імкненне, жаданне, уздым)* і інш.

У залежнасці ад лексічнага значэння назоўнікі падзяляюцца на у л а с н ы я, якімі абазначаюцца індывідуалізаваныя назвы асоб, істот, прадметаў і з'яў рэчаіснасці [*Мікола, Купала, (верш) «Гусляр», Віхор, Вараны, Палессе, Нёман, Няміга, Зямля, Поўнач, Усход, (завод) «Ударнік», (калгас) «Перамога», (трактар) «Беларусь», (таварыства) «Спартак», Радзіма*], і а г у л ь н ы я, якімі называюцца цэлыя класы аднародных прадметаў і з'яў, істот, паняццяў *(кніга, дрэва, луг, рака, чалавек, звер, маўзер, джоўль, кюры, краязнаўцы, васількі)*; на граматычна адушаўлёныя, якія ў прамым або пераносным значэнні абазначаюць асоб, істот і маюць у вінавальным склоне множнага ліку, а таксама ў адзіночным ліку мужчынскага роду форму, суадносную з родным склонам *(аграном, арол, чараўнік, лясун, нябожчык, мяшок, пень, язык, амёба, валет, ферзь, слон, мішка, конік, сцярвятнік, ястрабок)*, і н е а д у ш а ў л ё н ы я, якія абазначаюць прадметы нежывой прыроды і маюць у множным ліку, а таксама ў адзіночным для мужчынскага роду форму вінавальнага, суадносную з формай назоўнага склону *(дрэва, камень, вецер, ноч, жыццё, звяр'ё, табун, полк, батальён, атрад, група, трупа, труп, мушкі, сабачкі, рэнтген, наган, Марс, Юпітэр, бактэрыя, бацыла, сардзіны)*; на а с а б о в ы я, што з'яўляюцца назвамі пэўных асоб *(хлебароб, патрыёт, асілак, калега, запявала, мужчына, дзяўчына)*, і н е а с а б о в ы я, якія служаць для абазначэння розных іншых істот, прадметаў і з'яў *(лось, барсук, вавёрка, хвоя, неба, тундра)*; на к а н к р э т н ы я, якія абазначаюць пэўныя прадметы рэчаіснасці, з'явы прыроды, тыя ці іншыя падзеі, дзеянні і ўяўляюцца ў пэўнай акрэсленасці *(дом, стол, дрэва, возера, ноч, год, практыкаванне, заплыў, вылет, загад, указ, крок, бура, стачка, тактыка)*, і а б с т р а к т н ы я, якія абазначаюць адцягненыя паняцці, якасці, уласцівасці, станы, адчуванні, псіхічныя працэсы *(павага, любоў, гнеў, сорам, чуласць, слава, воля, гуманізм, энтузіязм, геройства, смеласць)*; на з б о р н ы я, якія называюць прадметы ў іх непадзельным адзінстве, цэласнасці, сукупнасці *(чалавецтва, люд, моладзь, дзятва, машкара, птаства, жарства, хвойнік, лазняк, галлё, крылле, карэнне, лісце)*, і р э ч ы ў н ы я ці рэчыўна-зборныя, што з'яўляюцца назвамі пэўных рэчываў у іх раздзельнай множнасці ці сукупнасці *(жалеза, вугаль, гравій, нафта, азот, порах, лён, ільны, драп, мёд, хлеб, вінаград)*.

Назоўнікам уласцівы катэгорыі роду, ліку і склону, якія з'яўляюцца асноўнымі сродкамі выражэння прадметнасці. Назоўнікі могуць належаць да мужчынскага, жаночага, ніякага ці агульнага роду *(горад, вёска, сяло, сірата)*, утвараць формы адзіночнага і множнага ліку ці выступаць толькі ў адной з гэтых форм *(сад—сады, друз, трысцё, нетры, чары)*, змяняцца па склонах і адносіцца да аднаго з тыпаў скланення — першага *(лес, балота, акно, поле, жыццё)*, другога *(вада, пушча, дуга, мука, страха, вішня, жняя)*, трэцяга *(сенажаць, ноч, шыр, моц, глыб, верф, крой)* ці да рознаскланяльных *(імя, дзіця, селянін, сусед, чорт, калена, неба, вока, вуха, плячо, маці)*. Асобна вылучаецца група нязменных назоўнікаў тыпу *дынама, дэпо, табу, рагу, меню, кафэ, атэлье, шасі, калібры*, якія адносяцца да г. зв. нулявога скланення.

Родавая прыналежнасць назоўнікаў вызначаецца марфалагічнымі прыкметамі — характарам асновы і склонавымі канчаткамі ў розных тыпах скланенняў (параўнаем: *колас, луг, сук, мох, рой, камень, брусок* — мужчынскі род; *хата, лаза, кара, рука, муха, хваля, гладзь, печ, моц* — жаночы род; *вясло, вядро, дрэва, узлессе, надвор'е, здароўе, зрэб'е, пугаўё, стрэмя, ягня* — ніякі род), сінтаксічнымі сувязямі слоў *(канструктарскае бюро, вялікае пано, гасцінны Сухумі, хуткаплынная Місуры, чароўная Ай-Петры, рухавы шымпанзэ, забрахаў дынга)*, а таксама лексічным значэннем саміх слоў *(буржуа, маэстра, аташэ, кулі, ранцье, дэндзі* — мужчынскі род; *мадам, фрау, фрэйлін, ледзі, міс, інжэню* — жаночы род; *метро, трумо, сола, кашнэ, рэзюмэ, інтэрв'ю* — ніякі род).

Катэгорыя ліку назоўнікаў можа выражацца марфалагічна, г. зн. сістэмай канчаткаў *(дуб — дубы, бяроза — бярозы)*, сінтаксічна, г. зн. формамі дапасавання да назоўнікаў граматычна звязаных з імі слоў *(высокае дрэва — высокія дрэвы, зялянее бяроза — зялянеюць бярозы, прадаецца паліто — прадаюцца паліто)*, словаўтваральнымі сродкамі *(селянін — сяляне, грамадзянін — грамадзяне)*, лексічна, г. зн. заменай асноў, ужываннем іншых слоў *(чалавек — людзі)*.

Катэгорыя склону знаходзіць сваё выражэнне ў формах сінтаксічных сувязей слоў і ў залежнасці ад функцый у сказе можа выступаць у форме прамога (назоўнага) або ўскосных склонаў *(роднага, давальнага, вінавальнага, творнага, меснага)*. Змяненне назоўнікаў па склонах носіць назву скланення (гл. **Скланенне**).

Назоўнікі могуць уступаць у сэнсава-сінтаксічныя сувязі з іншымі словамі ў сказе і ўтвараць адпаведныя тыпы словазлучэнняў, выконваючы ў іх ролю галоўнага ці залежнага кампанента, напрыклад: *прасторы Радзімы, зелень лугоў, прыход вясны, жытнёвае поле, першыя радасці, нашы рубяжы, навука перамагаць, дружба навекі; поўны сіл, дастойны пахвалы, трэці ў камандным заліку, пяць (пяцёра) байцоў, хтосьці з сяброў, жадаць поспеху, высока ў небе, лёгка на сэрцы.*

У сказе назоўнікі найчасцей выконваюць ролю дзейніка, дапаўнення ці прыдатка, што звязваецца непасрэдна з іх прадметным значэннем, радзей — функцыю акалічнасці, недапасаванага азначэння і выказніка.

Некаторыя назоўнікі, набываючы ў пэўным сінтаксічным кантэксце новыя граматычныя значэнні і функцыі, часткова страчваюць сваю ўласцівасць абазначаць прадметы і набліжаюцца да іншых лексіка-граматычных разрадаў слоў — да лічэбнікаў з няпэўна-колькасным значэннем *(процьма, бездань, мора, горы)*, прыслоўяў *(век, ноч, дзень, страх, смерць, кулём, віхрам)*, безасабова-прэдыкатыўных слоў *(шкада, бяда, гора, смех, грэх, час, пара)*, уваходзяць у склад спалучэнняў, якія выконваюць ролю прыназоўнікаў *(на чале, з мэтай, у сувязі з, у адносінах да)* або падпарадкавальных злучнікаў *(з прычыны таго што, па меры таго як, з таго часу як)*, становяцца выклічнікамі *(каюк, квіта* і інш.).

Клас назоўнікаў як адзін з найбольш значных лексіка-граматычных разрадаў слоў актыўна пашыраецца як за кошт новых лексічных адзінак (слоў), так і за кошт унутраных рэсурсаў мовы, сродкаў словаўтварэння. У сучаснай беларускай мове асабліва прадуктыўным з'яўляецца спосаб афіксальнага (суфіксальнага: *касец, паляшук, веялка;* прэфіксальнага: *поўдзень, пераразлік, нядоля;* прэфіксальна-суфіксальнага: *падпечак, сузор'е, пралеска, напарнік*) і безафікснага словаўтварэння *(кліч, плач, агляд, роспыт)*, а таксама асноваскладання *(ільнамялка, кустарэз, стагакід, крыгаход, санцапёк, вадаспад)*

і абрэвіяцыі *(дзяржцырк, БДУ, БВА, райЗАГС* і інш.). У мастацкай літаратуры, народна-паэтычных творах для выражэння дадатковых стылістычных, эмацыянальна-экспрэсіўных адценняў памяншальнасці, ласкальнасці, павелічальнасці, зневажальнасці, фамільярнасці шырока выкарыстоўваюцца суфіксы ацэнкі, ці, як прынята называць, формы суб'ектыўнай ацэнкі тыпу *конік, саколік, ветрык, дождждык, агеньчык, салавейка, матуля, дзядуля, сябрук, хароміна, каняка, даміна, халадэча.*

Важным сродкам узбагачэння слоўнікавага складу мовы, семантычнай ёмістасці слова з'яўляецца спосаб утварэння новых слоў шляхам пераходу ў назоўнікі розных іншых часцін мовы. Значэнне прадметнасці, уласцівае назоўніку, могуць набываць пры пэўных кантэкстуальных умовах розныя іншыя самастойныя і службовыя часціны мовы, калі паняцці, якія яны абазначаюць, уяўляюцца прадметна. У разрад назоўнікаў могуць пераходзіць: прыметнікі *(Без вывучэння **мінулага і сучаснага** мы не можам прадбачыць **будучага.*** Я. Колас), лічэбнікі *(У прагаліну паміж хвоек убачыў **двух** з вінтоўкамі.* К. Крапіва), займеннікі *(Вы хочаце да **сваіх?** Ну вось... А **вашы** за ракой.* М. Лынькоў; *Пільнуюць **тыя і гэтыя** броду.* Я. Купала), дзеясловы *(Ходзіць такі **падкапай** па сяле і рыецца, як той парсюк пад зруб.* Я. Брыль; *Сваё спрадвечнае **«выганяй!»** пракрычаў пастух.* Б. Сачанка; *І гэтае **«ідзі»** гучала злавесна.* А. Чарнышэвіч), дзеепрыметнікі *(«Таварышы!» — пачуў ён слабыя галасы **паўзучых.*** А. Якімовіч), прыслоўі *(Я чую твой у **заўтра** крок.* П. Броўка), службовыя словы — прыназоўнікі, злучнікі, часціцы *(Прычын гэтых **«за»** і **«супраць»** было вельмі шмат і ў кожнага свая.* К. Крапіва; *З кожным **«я», «як»** голас у крытыка павышаўся.* З. Бядуля; *Яму здавалася, што гэтая адмова — проста дзявочае **«не».*** Я. Брыль), выклічнікі *(Усе **«ўра!»** крычаць, падарожнікаў вітаюць.* А. Якімовіч).

Назоўнікі ў беларускай мове прайшлі складаны шлях гістарычнага развіцця — спрасціліся формы і сродкі выражэння пэўных граматычных і лексіка-граматычных катэгорый, іх прыватных значэнняў.

Значныя змены адбыліся і ў формах скланення назоўнікаў, што належалі да розных родаў, у скланавых канчатках розных разрадаў слоў.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962. Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Наркевіч А. І. Назоўнік: Грамат. катэгорыі і формы. Мн., 1976; Жыдовіч М. А. Назоўнік у беларускай мове. Ч. 1. Адзіночны лік. Мн., 1969.

*А. І. Наркевіч.*

Працэс стварэння моўных адзінак для называння фрагментаў рэчаіснасці і фарміравання адпаведных паняццяў пра іх у форме слоў, словазлучэнняў, сказаў абазначаецца тэрмінам намінацыя (ад лац. nominatio — найменне). Гэтым тэрмінам называюць і вынік працэсу намінацыі — значымую моўную адзінку. Прынцыпы і заканамернасці намінацыі вывучае раздзел мовазнаўства — анамасіялогія (гл. **Анамасіялогія**).

Намінацыя — гэта складаны працэс, які ажыццяўляецца на аснове агульных законаў мыслення і спецыфічных законаў пэўнай мовы. Ён звязаны з апрадмечваннем чалавекам аб'ектыўнага свету, з вылучэннем і абагульненнем неабходнага і істотнага ў прадмеце. У практычнай дзейнасці чалавек у першую чаргу называе, а тым самым і вылучае найбольш важнае, тое, што дазваляе адрозніць адзін прадмет ці з'яву ад іншых. Але за асобнымі адрозненнямі прадметаў, з'яў выяўляецца іх падабенства, агульнасць. Адна рака, напрыклад, не падобная да іншай. Адна шырокая, другая вузкая, адна паўнаводная, з хуткім цячэннем, другая неглыбокая, павольная. Але кожная з іх — пастаянная водная плынь, прыродны вадаём. Або, назіраючы безліч дрэў, чалавек адзначае не толькі іх адрозненне паміж сабой — старое ці маладое, з лісцем ці без яго, з прамым ці крывым ствалом і г. д., але і агульнае для ўсіх дрэў: наяўнасць цвёрдага ствала, галін, каранёвай сістэмы. «Адсякаючы» неістотныя прыкметы, чалавек прыходзіць да паняццяў «рака», «дрэва» і замацоўвае іх ў адпаведных назвах. Такім чынам, імя, назва вылучаюць прадмет, з'яву, дазваляюць замацаваць іх у свядомасці, перайсці ад абагульненага вобраза да разумення іх сутнасці, да фарміравання паняццяў. Выражаючы паняцці словамі, чалавек проціпастаўляе іх іншым паняццям, г. зн. намінацыя ёсць разам з тым і працэс атаясамлівання і размежавання з'яў рэчаіснасці, або, інакш, працэс пазнання рэчаіснасці. Сама назва памагае пазнанню, выступае як яго ўмова. Невыпадкова гавораць: «назваць — значыць зразумець».

Калі ўважліва прыгледзімся да розных слоў, то ўбачым, што ў адных выпадках адказаць на пытанне, чаму тым, а не іншым словам названы прадмет, з'ява рэчаіснасці, можна без асаблівых цяжкасцей, а ў другіх — назвы застаюцца загадкай. Кожны скажа, як узнікла слова *рукавіца* або чаму вадзіцеля самалёта назвалі *лётчыкам,* а лакаматыў з паравым рухавіком — *паравоз.* Гэтыя словы тлумачацца добра вядомымі лексемамі *рука, лётаць, пар, вазіць.* Такая вытлумачанасць адных моўных адзінак другімі называецца іх матывацыяй ці матывацыяй. Матывацыя — адзін з асноўных прынцыпаў намінацыі. Сувязь матывацыі і намінацыі ў тым, што прадмет атрымлівае назву па нейкай адметнай сваёй прыкмеце. Гэта можа быць форма, колер, памер, функцыя, падабенства да чаго-небудзь і іншыя знешнія або ўнутраныя ўласцівасці. Напрыклад, *чарніцы* атрымалі назву паводле колеру; *мыла* — паводле функцыі; у аснове назвы *парэчкі* ляжыць тое, што яны растуць у нізкіх мясцінах, ля рэчкі; *апенькі* — вакол пянька і г. д.

Аднак у мове ёсць мноства аднакаранёвых слоў, пераважна простых, аднакарэнных тыпу *вада, неба, хлеб, стол, рука,* матывацыю якіх з пункту гледжання сучаснай мовы растлумачыць нельга. Вытокі іх, першапачатковыя значэнні і формы схаваны ў цемры стагоддзяў. На дапамогу анамасіялогіі тут прыходзіць этымалогія (гл. **Этымалогія**). Так, у слове *стол* толькі шляхам этымалагічнага аналізу вызначаюцца магчымыя сувязі са словам *стлати* (*сцялю*). Слова *рука* гістарычна ўзыходзіць да слоў са значэннем «збіраць». Далейшае паглыбленне ў гісторыю старажытных індаеўрапейскіх моў паказвае, што словы з гэтым коранем абазначалі «скрыўленне», «скрыўляць», «згінаць». Гэта і ёсць першапачатковае, або этымалагічнае, значэнне слова. Але многія назвы так і застаюцца загадкай для сучаснай навукі.

Тым не менш кожнае слова, кожная назва пры сваім узнікненні першапачаткова з'яўляюцца так ці інакш матываванымі. Аднак відавочна, што якой-небудзь абавязковай сувязі паміж словамі як назвай прадмета і самім прадметам няма. Інакш нельга было б растлумачыць, чаму ў розных мовах адно і тое ж паняцце выражаецца рознымі назвамі. Напрыклад, слову *стол* адпавядаюць назвы: у англічан *table*, у немцаў Tisch; беларусы скажуць *парэчкі,* а рускія — *смородина; вясёлка* ў англійскай і нямецкай мовах называецца адпаведна reinbow і Regenbogen, што літаральна значыць «дажджавая дуга». У беларускай, рускай, украінскай мовах назвы *вясёлка, радуга,* звязваюцца з жывой этымалогіяй (*вясёлы, весяліцца, рады, радавацца*). Нават у межах адной мовы адна і тая ж з'ява можа называцца па-рознаму. Напрыклад, у беларускіх гаворках сустракаем больш за 30 назваў вясёлкі: *радуга, радаўніца, градаўніца, градуха, рада, парадуха, градавіца, перавесялуха, весялуха, вяселік, весяліха, тэнча, цмок, пояс, дуга, красуля, дажджанка, мецялуха, ключ* і іншыя; *пеўня* называюць *пявун, пятух, когут, кабан.* Усё гэта сведчыць пра тое, што кожны народ, выбіраючы пэўныя вобразы для адлю-

стравання прадметаў, з'яў аб'ектыўнага свету, фіксуе пры дапамозе назваў свой уласны, набыты стагоддзямі вопыт, свае веды пра свет. Менавіта таму ў розных народаў па-рознаму расчляняецца і мадэліруецца ў мове сама рэчаіснасць. У адных народаў адпаведна з умовамі жыцця, сацыяльным вопытам больш дробна расчляняюцца адны сферы рэчаіснасці, у другіх — другія. Так, напрыклад, старажытныя помнікі нашых продкаў данеслі да нас ад феадальнай пары некалькі дзесяткаў назваў падатку, гэта *дань, даръ, бѣла, аброкъ, поборъ, падымъе, поличное* і іншыя; у мове эскімосаў ёсць каля 100 назваў *снегу* і больш за 20 назваў для абазначэння *лёду* (у яго розным стане); у мове арабаў не менш дзесяці назваў для *вярблюда*, якія адрозніваюць гэтых жывёл па ўзросце, біялагічных прыкметах і г. д.

У залежнасці ад таго, якога роду фрагменты рэчаіснасці абазначаюцца, адрозніваюць элементныя і падзейныя, ці сітуацыйныя, намінацыі. Элементныя намінацыі ў самай агульнай форме можна кваліфікаваць як імёны элементаў прадметнага, «рэчыўнага» (у шырокім сэнсе слова) свету: *дом, кніга, час, цяпло, паветра, пясок* і г. д., імёны ўласцівасцей, якасцей прадметаў, іх стану, імёны працэсаў, а таксама імёны абстрактных паняццяў аб несубстанцыянальных элементах рэчаіснасці: *добры, вясёлы, думаць, спаць, радасць, хутка* і г. д. Элементныя намінацыі выступаюць у форме слоў, словазлучэнняў, фразеалагізмаў і служаць будаўнічым матэрыялам для сказаў.

З паглыбленнем навуковага ўяўлення аб прыродзе і функцыях мовы ў мовазнаўстве з'явілася палажэнне пра тое, што і сказ (як і слова, словазлучэнне) — намінатыўная адзінка. У семантычным сінтаксісе, напрыклад, сказ *Настаўнік выклікаў вучня да дошкі* разглядаецца як абазначэнне пэўнай падзеі, г. зн. як складаны, пэўны знак, які непасрэдна суадносіцца з падзеяй, сітуацыяй. Такія «імёны» фактаў пазамоўнай рэчаіснасці ці падзей, сітуацый і прынята называць падзейнымі (сітуацыйнымі) намінацыямі.

Пры разглядзе намінацыі ў функцыянальна-генетычным аспекце вылучаецца першасная, або прамая, намінацыя, механізм якой зводзіцца да працэсу азначвання гукавога комплексу (у сучаснай мове ўспрымаецца як невытворнае), і другасная намінацыя, пад якой разумеюць любыя вытворныя найменні, што ўзнікаюць на розных узроўнях моўнай сістэмы на базе наяўных у мове сродкаў. Першасныя працэсы намінацыі — рэдкая з'ява ў сучасных мовах. Намінатыўны інвентар мовы папаўняецца пераважна за кошт другаснай намінацыі або запазычання. Другасная намінацыя можа быць сэнсавай [назвы ўзнікаюць у выніку пераасэнсавання ўжо гатовых моўных адзінак: *конь* (гімнастычны, ход канём), *ручка* (для пісьма), *аўдыторыя* (група слухачоў) і г. д.], словаўтваральнай (назвы ствараюцца пры дапамозе разнастайных словаўтваральных сродкаў, шляхам аснова- і словаскладання, абрэвіяцыі і інш.: *чалавецтва, касманаўт, тэлебачанне* і г. д.), сінтаксічнай (у якасці намінатыўных адзінак выступаюць сказы) і інш. Па сутнасці, кожны ўзровень моўнай сістэмы ўносіць свой уклад ва ўтварэнне новых найменняў, хоць рэгулярна яны ўзнікаюць не на ўсіх узроўнях.

Прадуктыўнасць тых ці іншых спосабаў намінацыі залежыць найперш ад структуры самой мовы. Напрыклад, у беларускай мове даволі разгалінаванай з'яўляецца сістэма суфіксаў і прыставак, таму на першы план выступаюць словаўтваральныя спосабы намінацыі. Але разам з тым у многіх мовах свету можна выявіць пэўныя заканамернасці ў выбары спосабаў намінацыі, абумоўленыя адпаведнымі сацыяльнымі, псіхалагічнымі і іншымі фактарамі. Так, у большасці еўрапейскіх моў у 18—19 ст. пераважалі семантычныя (метафарызацыя, метанімізацыя) і сінтаксічныя спосабы намінацыі (утварэнне шматслоўных назваў). 20 стагоддзе, з яго тэндэнцыяй да паскарэння тэмпу жыцця, з імклівым ростам аб'ёму інфармацыі актывізавала ў многіх мовах, у тым ліку і беларускай, такія словаўтваральныя спосабы намінацыі, як абрэвіяцыя, кампазіцыя, разнастайныя сцяжэнні, усячэнні і г. д.

Намінацыя — працэс бесперапынны, як бесперапынны і бясконцы сам працэс пазнання. Паводле падлікаў вучоных, аб'ём ведаў, якімі валодае чалавецтва, падвойваецца кожныя дзесяць гадоў. А гэта азначае, што ў мове штодзённа ствараюцца новыя назвы (ці пераасэнсоўваюцца старыя) для абазначэння розных бакоў шматграннага жыцця чалавека. У кожнай мове сёння налічваецца некалькі мільёнаў назваў.

Аднак не ўсе намінацыі аднолькавыя з пункту гледжання сферы і інтэнсіўнасці выкарыстання. Адны з іх забяспечваюць патрэбы ўсяго моўнага калектыву, з'яўляюцца агульнаўжывальнымі, вядомымі большасці носьбітаў мовы. Гэтую частку намінацый звычайна фіксуюць філалагічныя слоўнікі (ТСБМ, напрыклад, падае больш за 100 тыс. слоў). Другія назвы, і іх значна больш, абмежаваны пэўнымі сферамі выкарыстання. Гэта, у прыватнасці, шматлікія навуковыя і тэхнічныя тэрміны, наменклатурныя адзінкі (тыпу трактар *«Беларусь-МТЗ-0,5»*, аўтамабіль *«Жыгулі»*), створаныя для абазначэння вырабаў, тавараў, гатункаў і г. д. Характэрна, што ў сучасную эпоху — эпоху НТР — найбольшая колькасць намінацый узнікае менавіта ў сферы навукі, тэхнікі, спорту, грамадскага жыцця (у той час, як у папярэднія стагоддзі часцей ствараліся назвы, звязаныя з сельскай гаспадаркай, рознымі рамёствамі, войнамі, рэлігійным культам). За межамі агульнаўжывальнага слоўніка застаюцца намінацыі, якія ўзнікаюць у вузкіх сацыяльных калектывах (жаргонныя намінацыі), а таксама ў індывідуальнай моўнай творчасці (аказіянальныя намінацыі).

*Літ.:* Языковая номинация: (Общие вопросы). М., 1977; Языковая номинация: (Виды наименований). М., 1977; Никитевич В. М. Основы номинативной деривации. Мн., 1985; Баханькоў А. Я. Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд. Сацыялінгв. нарыс. Мн., 1982.

*Л. І. Сямешка.*

## НАРКЕВІЧ АРКАДЗЬ ІОСІФАВІЧ



А. І. Наркевіч нарадзіўся 10 сакавіка 1929 г. ў в. Вараноўшчына Капыльскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў Мінскі дзяржаўны педінстытут (1951). Працаваў у школе, а пасля заканчэння аспірантуры (1955) — у Інстытуце мовазнаўства АН БССР на пасадзе малодшага, затым старшага навуковага супрацоўніка, з 1965 г. ў БДУ, дзе займаў пасаду дацэнта кафедры беларускай мовы філалагічнага факультэта, затым — кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання факультэта журналістыкі, з 1976 г.— прафесар, а з 1989 г. і загадчык гэтай кафедры. Доктар філалагічных навук (1974).

Галоўнымі аб'ектамі навуковых даследаванняў А. І. Наркевіча з'яўляюцца марфалогія і сінтаксіс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Кандыдацкую дысертацыю на тэму «Спосабы выражэння азначэнняў у сучас-

най беларускай мове» абараніў у 1956 г., доктарскую на тэму «Сістэма словазлучэнняў у сучаснай беларускай літаратурнай мове: структурна-семантычнае апісанне» — у 1973 г. У манаграфіі «Сістэма словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове» (1972) на багатым фактычным матэрыяле прааналізаваў уласцівыя беларускай літаратурнай мове словазлучэнні з боку іх структуры, семантыкі і стылістычнай прыналежнасці, вызначыў агульныя тэндэнцыі і кірункі развіцця самой іх сістэмы. Манаграфія А. І. Наркевіча «Назоўнік: Граматычныя катэгорыі і формы» (1976) вызначаецца багаццем фактычнага матэрыялу і глыбокім яго аналізам з граматычнага і стылістычнага боку.

А. І. Наркевіч з'яўляецца сааўтарам акадэмічных прац «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Сінтаксіс» (1959) і «Граматыка беларускай мовы» (т. 1—2, 1962—66), аўтарам вучэбнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ «Практычны курс сучаснай беларускай мовы» (1992). У А. І. Наркевіча каля трохсот публікацый навуковых прац па розных пытаннях беларускага мовазнаўства.

*Тв.*: Некаторыя асаблівасці дапасавання азначэнняў да азначаемых слоў у сучаснай беларускай літаратурнай мове // Даследаванні па беларускай і рускай мовах. Мн., 1958; Значэнні прыназоўнікава-іменных канструкцый з атрыбутыўнай сінтаксічнай функцыяй у сучаснай беларускай літаратурнай мове // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1959. Вып. 6; Беспрыназоўнікавыя прыйменныя канструкцыі з залежнай формай назоўніка // Тамсама. 1960. Вып. 7; Варыянтнасць склонавых форм назоўнікаў // Аб некаторых асаблівасцях беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1965; Ужыванне інфінітываў у ролі залежных кампанентаў іменных канструкцый // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1966. № 4; Іменныя словазлучэнні з займеннікамі ў ролі залежных слоў // Лексікалогія і граматыка: Зб. арт. па бел. і рус. мовах. Мн., 1969; Асноўныя тэндэнцыі развіцця сістэмы словазлучэнняў у сучаснай беларускай літаратурнай мове // Весн. БДУ. Сер. 4. 1971. № 1; Структурна-семантычныя групы новаўтвораных словазлучэнняў у сучаснай беларускай літаратурнай мове: (па матэрыялах перыядычнага друку) // Тамсама. № 2; Структурныя тыпы і функцыі адносна-прыналежных прыметнікаў // Нар. асвета. 1972. № 5; Лексико-семантические средства выражения принадлежности в белорусском языке (сравнительно с русским) // Проблемы лексикологии: Сб. статей. Мн., 1973; Словосочетания и семасиологические единства: (на материале бел. языка) // Вопросы филологии: Сб. тр. Московского гос. пед. ин-та. М., 1974; Слово в словосочетании и в фразеологизме // Методы изучения лексики. Мн., 1975; Словазлучэнне і слова // Нар. асвета. 1976. № 5; Словазлучэнне і яго месца ў агульнай сістэме граматыкі і лексікалогіі // Бел. мова. Мн., 1978. Вып. 6; Граматычная норма і варыянтнасць // Культура мовы журналіста. Мн., 1982. Вып. 1; Пра варыянтнасць і нарматыўнасць граматычных форм у сістэме прыметнікаў // Тамсама. 1984. Вып. 2; Словаспалучальныя новаўтварэнні ў мове прэсы // Тамсама. 1986. Вып. 3; Метафарычныя спалучэнні ў мове прэсы // Тамсама. 1988. Вып. 4; Грані слова // Беларусь. 1988. № 9; Жывое слова // Маладосць. 1989. № 10; Народжаныя часам // Беларусь. 1990. № 6; Прыналежныя прыметнікі ў беларускай і рускай мовах // Бел. мова і літ. ў школе. 1990. № 7, 9; Новаўтварэнні і моўныя штампы // Полымя. 1990. № 10; Акадэмік Карскі: Да 130-годдзя з дня нараджэння // Наст. газ. 1990. 26 снеж. Слова і час: Актыўная і пасіўная лексіка ў мове прэсы // Культура мовы журналіста. Мн., 1992. Вып. 6.

*Літ.*: Шакун Л. М. Аркадзь Іосіфавіч Наркевіч // Весн. БДУ. Сер. 4. 1989. № 1.

*І. К. Германовіч.*

## НАРОДНАЕ СЛОВАЎТВАРЭННЕ

Беларускае народнае (дыялектнае) словаўтварэнне ўпершыню па-навукоываму прааналізаваў Я. Ф. Карскі, які апісаў шэраг спецыфічных афіксаў, уласцівых народнай беларускай мове, паказаў месца іх эквівалентаў у іншых славянскіх мовах.

Шырока разгарнулася вывучэнне беларускай дыялектнай мовы ў пасляваенны перыяд. Словаўтварэнню прысвечаны асобныя карты і раздзелы каментарыяў у «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы» (1963) і манаграфіі «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69). Словаўтваральная структура некаторых груп лексікі асобных рэгіёнаў Беларусі аналізуецца ў зборах дыялектнай лексікі, рэцэнзіях на дыялектныя слоўнікі, у даследаваннях па анамастыцы. Спецыяльныя артыкулы народнадыялектнай словатворчасці прысвяцілі Г. Арашонкава, А. Крывіцкі, М. Крыўко, М. Паўленка, П. Сцяцко і іншыя. У кнізе П. Сцяцко «Народная лексіка і словаўтварэнне» (1972) апісваюцца асаблівасці ўтварэння прадметнай лексікі гаворак Зэльвеншчыны, а ў яго манаграфіі «Беларускае народнае словаўтварэнне: Афіксальныя назоўнікі» (1977) — субстантыўнае словаўтварэнне на матэрыяле гаворак усёй тэрыторыі Беларусі.

Словы дыялектнай беларускай мовы ўтвараюцца пераважна тымі спосабамі, што і ў літаратурнай мове, аднак народнадыялектнай мове толькі ў нязначнай ступені ўласцівы складанне і абрэвіяцыя. Найбольш адрозненняў народнае словаўтварэнне мае ў арсенале дэрывацыйных сродкаў і іх выкарыстанні. Так, словаўтваральныя фарманты ў народнадыялектнай мове звычайна маюць шырэйшыя канструктыўныя магчымасці — яны спалучаюцца з больш разнастайнымі тыпамі ўтваральных асноў і маюць шырэйшае словаўтваральнае значэнне. Напрыклад, з фармантам *-ч-а* ў літаратурнай мове ўтвораны толькі назоўнікі ад дзеяслоўных асноў з коранем *-да-*: *выдача, здача, перадача, дача, падача*, а таксама словы *здабыча* і *нястача*. У народнадыялектнай мове гэты фармант спалучаецца з асновамі розных часцін мовы і мае розныя словаўтваральныя значэнні: аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць дзеянне як працэс: *купіць — купча, расці — росча, есці (ем) — еча*; часам маюць канкрэтнае значэнне: *ліпча* «прыліпала», *драча* — «груда ададранай зямлі»; адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць дачку ці жонку таго, хто названы ўтваральным словам: *бляхарча, Платонча, маёрча* ці асобу жаночага полу: *аграномча, брыгадзірча, палявodча*, а таксама маладую істоту: *цыганча, свінча*, або маюць зборнае значэнне: *ліпча* «зараснік ліпы, ліпняк», *зелянча* «зеляніна». Суфікс *-іск-а/-ыск-а* ў літаратурнай мове ўтварае толькі адзінкавыя словы з ацэначным значэннем *(вятрыска, дажджыска)*, а ў народнадыялектнай мове (асабліва захаду Беларусі) і шмат іншых адсубстантыўных дэрыватаў: *бугаіско, вазіско, ваўчыско, даміско, каніско, маразіско, шчупачыско, сям'іска* і г. д. Акрамя таго, гэты фармант далучаецца да асноў іншых часцін мовы. Аддзеяслоўныя ўтварэнні абазначаюць прастору паводле адпаведнага дзеяння: пасвіць — *пасвіско* «паша», *пакóпіско* «пакапанае поле». Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць поле пасля пэўных збожжавых культур: *картапляніско, аўсяніско, жытніско*, а таксама лісце і сцябло адпаведных культур: *гарохавіско, бульбяніско*; ручку прылады працы: *тапарыско, касавіско*; месца, дзе раней знаходзіўся адпаведны прадмет: *вогніско, печыско, пажарыско, дварыско*.

У народнадыялектнай мове захавалася шмат даўнейшых, старажытных афіксаў; выяўленне і апісанне іх мае вялікую каштоўнасць для этымалогіі. Напрыклад, праславянскі прэфікс *ка-*: *дайбці — кадайб, лужа — калужа*. Але найбольш тут адметных суфіксаў; у літаратурнай мове яны або ўжо зусім не выкарыстоўваюцца, або сустракаюцца ў адзінкавых словах.

Нярэдка ўтварэнні з адпаведнымі суфіксамі ў літаратурнай мове маюць адцягненае значэнне, а ў гаворках — канкрэтнае: *труцізна* «атрута», «*цалізна* «агрэх», *рабізна* «ямачка ад воспы», *зыбкасць* «дрыгва».

Шмат якія ўтварэнні ў літаратурнай і народнадыялектнай мове не супадаюць па стылістычнай маркіраванасці. Напрыклад, утварэнні на *-ака* ў літаратурнай мове маюць адценне зніжанасці *(пісака, служака)*, а ў гаворках тут яго няма: *спявака, выцінака*. Народнадыялектнай мове ў большай ступені ўласціва тэндэнцыя да размежавання асоб адпаведнага полу не толь-

кі кантэкстуальна, але і па форме. Так, замест назоўнікаў агульнага роду часцей выкарыстоўваюцца словы ў форме жаночага ці мужчынскага роду. Гэта абумоўлена адметнасцю суфіксаў, з дапамогай якіх утвараюцца такія асабовыя назоўнікі адпаведнага роду ад назваў агульнага роду: *крыкса — крыксун, крыксуха, нядбайла — нядбайлік, скупяндзя — скупяндзей, аграном — аграномча.*

Такім чынам, у народнадыялектнай мове значна больш прадуктыўных тыпаў словаўтварэння, чым у літаратурнай.

Народная мова надзвычай багатая на сінанімічныя сродкі. Гэта тлумачыцца рознымі прычынамі: разгалінаванасцю саміх гаворак, узаемадзеяннем розных гаворак з іх дэрывацыйнымі асаблівасцямі, уздзеяннем на гаворкі літаратурных моў і гаворак суседніх народаў, захаваннем у народнай мове словаўтваральных тыпаў і мадэлей мінулых эпох, адсутнасцю строгай рэгламентацыі, уласцівай літаратурнай мове. Вось прыклад аднаго з сінанімічных радоў: *макрата, макрэча, мокрадзь, макрадла, макранка, макрышча, мокрычча.*

Найбольш даследавана ў дыялектным словаўтварэнні субстантыўная словаўтваральная падсістэма. Тут і найбольшая колькасць адметнасцей. Іншыя падсістэмы — прыметнікавая, дзеяслоўная, прыслоўная — пакуль не даследаваныя. Каб мець больш-менш поўнае ўяўленне пра спецыфіку народнадыялектнага словаўтварэння, даём яго характарыстыку з улікам алфавітнай паслядоўнасці некаторых фармантаў.

Суфікс *-аль.* Аддзеяслоўныя ўтварэнні называюць асоб і прадметы паводле іх дзеяння: *крумкаць — крумкаль* «вымагальнік», *дыбаць — дыбаль, чарціць — чэрчаль* «цыркуль», *кураль* «лучына», «дымар». Адыменныя назоўнікі абазначаюць асоб і прадметы паводле іх пэўнай адзнакі: *гаршкаль* «ганчар», *вудаль, бруха — брухаль, дайгаль, крываль, насаль (носаль).*

Суфікс *-ейк-а(-эйк-а).* Аддзеяслоўныя назоўнікі агульнага роду называюць асоб паводле ўласцівага ім дзеяння: *пахвалейка* «хвалько», *туляцца — тулейка, шумець — шумейка,* а таксама прадметы: *варэйка* «гаршчок для варыва», *калатэйка* «пранік».

Суфікс *-ер(-эр, -ар).* Адпрыметнікавыя назоўнікі маюць значэнне адцягненай прыкметы: *доўгі — дэўжар, тоўсты — тэўшчар, гушчэр,* а таксама канкрэтныя прадметы, якія характарызуюцца гэтай адзнакай: *гусцер* «густая збажына», *тэўшчар* «тоўстае бярвяно».

Суфікс *-ён(-он).* Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб і рэчывы па іх якасных прыкметах: *маладзён* «малакасос», *красён* «прыгажун», *шарон* і *бялён* «від снегу».

Суфікс *-л-я (-лл-я).* Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асоб паводле іх прафесійнага дзеяння: *ткаць — ткаля* і *тколля, прасці — праля* і *пралля, равэля* «крыксуха», *піск — піскля,* а таксама прадметы, што характарызуюцца адпаведным дзеяннем: *легля* «паламаны бурай лес», *навісля* «намаразь на дрэвах», *дыхля* «багна».

Суфікс *-м-о (-м-а).* Аддзеяслоўныя назоўнікі называюць прадметы і з'явы паводле іх дзеяння: *муляць — мульмо* «мазоль», *пражмо* «пражанае», *вальмо* «ўпадзіна», *дуйма* «мяцеліца», *жужма* «насякомыя», *вязьмо* «перавясла».

Суфікс *-ошч-ы (-ашч-ы).* Аддзеяслоўныя назоўнікі называюць адпаведныя працэсы: *любіць — любошчы, радавацца — радашчы, пахнуць — пахашчы, хітрошчы.*

Суфікс *-уль.* Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асоб і прадметы паводле іх дзеяння: *ківацца — ківуль, маргаць — маргуль, свіргуль* (птушка). Адпрыметнікавыя ўтварэнні абазначаюць асоб па інтэнсіўнай прыкмеце: *касматы — касмуль, гарбуль, насуль.* Адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць асоб і прадметы па адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *хатуль* «дамасед», *бычуль* «гультай», *гарбуль* «нарост».

Суфікс *-як-а.* Адпрыметнікавыя назоўнікі характарызуюць асоб паводле адпаведнай адзнакі: *здаравяка, спакайняка, пільняка;* адназоўнікавыя — асоб і прадметы па адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *скарамяка* «хто есць скорам», *дзеравяка* «бервяно», *беразяка* «бярэзіна як матэрыял».

Дыялектнае словаўтварэнне, як і дыялектная мова ў цэлым,— невычэрпная крыніца, якая жывіць літаратурную мову. Яно бясконца багатае ў сваіх магчымасцях і заўсёды пераўзыходзіла і будзе пераўзыходзіць літаратурную мову па разнастайнасці мадэляў, канструкцый, спалучальнасці адзінак і г. д.

*П. У. Сцяцко.*

## НАРОДНАЯ ЭТЫМАЛОГІЯ

Народная этымалогія — моўная з'ява, сутнасць якой у пераробцы і пераасэнсаванні запазычанага (радзей роднага) слова на ўзор блізкага па гучанні слова сваёй мовы і ва ўстанаўленні паміж імі семантычных сувязей на падставе знешняга, выпадковага гукавога супадзення без уліку рэальных фактаў іх паходжання. Напрыклад, дыялектнае *лавец* 'ражончык, завостраны дубчык, на які чапляюць сала, калі смажаць яго на агні' атаясамліваецца з *лавіць,* хоць яно паходзіць з *ламец* 'ламіна'; дзіцячае слова *гудзільнік* 'будзільнік' — з *гудзець; мазелін* 'вазелін' — з *мазаць.*

Передумовай народнай этымалогіі з'яўляецца ізаляванасць слова. Таму этымалагізуюцца як словы сваёй мовы, якія ў выніку дыэтымалагізацыі апынуліся на перыферыі сістэмы лексікі ў «слабой» пазіцыі, так і словы, запазычаныя з іншых моў. Рухальнай сілай народнай этымалогіі з'яўляецца знешняе, гукавое падабенства такога ізаляванага слова з іншым, якое знаходзіцца ў «моцнай» пазіцыі (паранімічныя адносіны). Таму некаторыя вучоныя (І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ, Я. Карловіч) называлі народную этымалогію паранімічнай атракцыяй з падтыпамі: асананцыя (змяненне на падставе толькі падабенства гучання: *спінжак* (спіна) 'пінжак'; арадыяцыя (аднясенне да «мацнейшага», больш ужывальнага кораня на аснове параніміі і семантычнай інтэрпрэтацыі: бел. *мазгі* 'мякаць у гарбузе' (І. Насовіч) узыходзіць да *мязга;* ад'ідэацыя (сэнсавая інтэрпрэтацыя пэўнага слова шляхам асацыяцыі з іншым, падобным да яго: бел. *лагоднік* 'ліслівец' узнікла пры асацыяцыі з рус. *угодник;* бел. (Іванаўскі раён) *росáйка* 'русалка' — з *раса;* укр. *плитуар* 'тратуар' пад уплывам *плита* 'пліта'.

Упершыню паняцце «народная этымалогія» было ўведзена ў 1852 г. Э. Фёрстэманам. Ён меркаваў, што гэта натуральны і аб'ектыўны працэс, які працякае ў рамках «звычайных» моўных змен. Іншыя ж падкрэслівалі яе «паталагічны» характар. Гэты моўны кур'ёз, паводле іх, заўсёды быў наўмысны (Ф. дэ Сасюр). Параўнаем рус. *клеветон* 'фельетон' і іншыя словы, што ствараюцца як гульня слоў. Вучонымі выкарыстоўваліся і такія тэрміны, як: наіўная этымалогія, несапраўдная (рус. ложная) этымалогія, семасіялагічная або лексічная асіміляцыя, фанетыка-семантычная асіміляцыя, этымалагічная рэінтэрпрэтацыя (Г. Паўль, В. Вундт, Ж. Жыльерон, А. Даза, Ж. Вандрыес, В. Пізані, І. Д. Шышманаў, О. Духачак, В. Цянкоўскі, Ю. У. Аткупшчыкоў, Е. Дзендзяліўскі, А. Эрхарт і Р. Вэчарка).

Народная этымалогія, як правіла, узнікае ў сферы вуснай мовы, а таксама ў асяроддзі неадукаваных людзей: бел. *вінапалька* (з *манапалька), нервапатолаг* (з *нейрапатолаг*), рус. *полуклиника* (з *поликлиника*), укр. *болікліника* (з *болі* 'болі'). Аднак народнаэтымалагічныя ўтварэнні з'яўляюцца індывідуальнымі ўтварэннямі і не становяцца састаўной часткай лексічнай сістэмы мовы. Іншыя ж атрымліваюць поўнае права ў сістэме мовы і адносяцца хутчэй да стылістыкі або дыялекталогіі, чым да этымалогіі; яны абмежаваны функцыянальна або тэрытарыяльна.

Выключнымі з'яўляюцца такія словы, першапачатковая форма якіх была цалкам выцеснена атрактыўным неалагізмам. І для таго, каб раскрыць

сапраўднае паходжанне такіх слоў, вучонаму спатрэбяцца не толькі агульныя звесткі пра механізм паранімічнай атракцыі, але і канкрэтныя веды па гісторыі з'явы, слова, прадмета. Так, бел. *гладышка, гладыш* паходзяць не ад *гладкі*, а, з'яўляючыся вельмі старажытнымі словамі, звязваюцца паходжаннем з такімі праславянскімі словамі, як *latъ-* ці *latь-*, якімі ў той перыяд называлі гліну (А. М. Трубачоў).

Слова *блізарукі* для сённяшняга карыстальніка беларускай мовай несумненна звязана са словам *рука*, але ў сапраўднасці гэта не так: разглядаючы гісторыю слова, мы прыходзім да высновы, што яно складаецца з двух слоў — *блізкі і зоркі*, пры словаскладанні якіх выпаў адзін склад з *-з-* і ўтварыўся новы *-ру-*. Беларускае *высакосны год* звязваецца не з *высокі*, а паходзіць з *вісакосны*, якое са старажытнарускага *висекость, висекъстъ*; апошнія былі запазычаны з сярэднягрэчаскага bisextos, якое з лацінскага *bisextus* 'двойчы шосты', г. зн. дзень 29 лютага быў яшчэ раз шостым пасля звычайнага шостага дня ў тыдні. Усходнемагілёўскае *ламáжжа* 'лам'ё' асацыіруецца са словам *ламачча*, але яно ўзыходзіць да балтыйскіх моў (параўнаем літоўскае *lámžyti* 'душыць, прыцiскаць').

На народнай этымалогіі пабудаваны шматлікія легенды пра паходжанне беларускіх рэк і населеных пунктаў: напрыклад, *Гомель* нібыта паходзіць ад слоў *го! мель!*, якія крычаў чалавек на беразе р. Сож, папярэджваючы аб мелі; назва в. *Бездзеж* (Драгічынскі раён Брэсцкай вобласці), у якой нібыта не было дзежаў, хоць гэта яшчэ праславянскае ўтварэнне *bezděďь* 'бязродны, без дзеда' — відаць, чалавек, які першы пасяліўся на гэтым месцы, аднекуль прыбыў адзін, без роду, без сям'і; назва горада *Столін* ад слоў *сто лінёў* — чалавек, які заснаваў гэты горад, злавіў нібыта сто лінёў. *І. І. Лучыц-Федарэц.*

## НАРОДЫ І МОВЫ СВЕТУ

Насельніцтва Зямлі складаецца з так званых этнасаў. Этнас — гэта ўстойлівая сукупнасць людзей, якая сфарміравалася гістарычна, валодае агульнай мовай, адрозніваецца ўласнымі рысамі культуры, адметнымі асаблівасцямі псіхікі, усведамляе сваё адзінства, што выражаецца ў саманазве-этноніме, і сваё адрозненне ад іншых груповак людзей. Найбольш тыповыя віды этнасаў — гэта племя, народнасць і нацыя.

У перакладзе з грэчаскай мовы *ethnos* значыць «народ». У айчыннай навуцы найбольшае пашырэнне мае класіфікацыя народаў-этнасаў паводле прынцыпу іх моўнай прыналежнасці (этналінгвістычны прынцып). Моўная блізкасць сведчыць або пра генетычную роднасць народаў, або пра іх працяглыя культурныя кантакты, або пра тое і другое разам. Таму моўны малюнак свету нельга даць, не даючы адначасова і малюнак этнічны.

Варта заўважыць, што словы *этнас* і *народ* не заўсёды выступаюць у якасці абсалютных сінонімаў. Зразумела, ёсць выпадкі, калі адзін этнас утварае адзін народ, які валодае адной мовай (а ў мінулым такіх выпадкаў было значна больш). Але калі мы прывычна гаворым *народ Індыі, народ Гвінеі, народ Швейцарыі, амерыканскі народ* (і адпаведна *індыйцы, гвінейцы, швейцарцы, амерыканцы*), то за словам *народ* хаваюцца розныя этнасы. Гэта трэба ведаць для таго, каб не зрабіць памылковы вывад, што на Зямлі столькі моў, колькі народаў. Недакладным будзе і заключэнне, што колькасць моў супадае з колькасцю этнасаў, паколькі, па-першае, этнас можа быць двухмоўным (эльзасцы, што жывуць на ўсходзе Францыі, свабодна валодаюць нямецкай і французскай мовамі), а па-другое, мова асобнага народа-этнасу можа складацца з вельмі адрозных дыялектаў, якія небеспадстаўна часам адносяць да розных моў. Калі яшчэ ўлічыць, што многія рэгіёны свету (Паўднёвая Амерыка, Афрыка, Аўстралія, Новая Гвінея і інш.) слаба вывучаны моваведамі, то будзе зразумелым, што агульную колькасць моў Зямлі можна назваць толькі прыблізна.

Паводле даных Акадэміі навук Францыі, насельніцтва зямнога шара гаворыць не менш чым на 2796 мовах, якія аб'ядноўваюцца ў 11 вялікіх і каля 50 малых моўных груп, а ўсе, хто гаворыць на гэтых мовах, выкарыстоўваюць ад 7 да 8 тысяч дыялектаў. Нямецкія вучоныя сцвярджаюць, што сучасныя народы свету гавораць на мовах, колькасць якіх перавышае 4000, а ўсяго навуцы вядома каля 5600 жывых і мёртвых моў. У кнізе рускіх лінгвістаў «Прынцыпы апісання моў свету» (1976) сцвярджаецца: «Па прыблізных даных, сёння на зямным шары існуе прыкладна 3500 моў» (с. 7), а апошнія дэмаграфічныя даведнікі прыводзяць лічбу 4—5 тысяч. На жаль, больш дакладныя звесткі пра колькасць натуральных моў сёння наўрад ці можна атрымаць.

Стварэнне моўнай карты свету з кожным днём становіцца справай усё больш цяжкай, бо практычна на Зямлі няма аднамоўных краін і нават буйных гарадоў. Напрыклад, Лондан англійскія вучоныя называюць «лінгвістычным Вавілонам», бо, паводле звестак міністэрства адукацыі Вялікабрытаніі, у ім гавораць на 147 мовах, хоць, зразумела, найбольш на англійскай. Тлумачыцца гэта тым, што выхадцы з былых брытанскіх калоній «прывезлі» з сабой і свае мовы. У цэлым у Англіі зараз жыве каля 2 мільёнаў нябелага насельніцтва. Больш за 40 % гэтых людзей нарадзіліся ўжо ў Англіі, г. зн. сталі прадстаўнікамі яе ўласных новых нацыянальных меншасцей.

Іншым прыкладам можа быць Швейцарыя: краіна такая ёсць, а мовы швейцарскай няма. На захадзе гэтай рэспублікі гавораць па-французску, на поўдні — па-італьянску, а ў большасці кантонаў (акруг) — па-нямецку, прычым у кожным «нямецкім» кантоне свой дыялект. У сталіцы кантона Граўбюндэн-Кур гавораць адразу на 6 мовах: нямецкай, італьянскай і на 4 разнавіднасцях рэтараманскай.

Няма, як вядома, і амерыканскай мовы, хоць ёсць — і нямала — апісанняў амерыканскага варыянта англійскай мовы. Няма мовы бельгійскай: у Фландрыі гавораць на фламандскай, а ў Валоніі — на французскай мове. Няма моў (а народы ёсць) бразільскай, чылійскай, аргенцінскай або мексіканскай, таму што ў Бразіліі карыстаюцца партугальскай, а ў іншых краінах Лацінскай Амерыкі — іспанскай, акрамя гэтых моў там карыстаюцца шматлікімі і разнастайнымі мовамі індзейцаў.

Каб праілюстраваць складанасць моўнай карціны свету, звернемся яшчэ да аднаго, на першы погляд простага прыкладу — простага таму, што насельніцтва краіны, пра якую пойдзе гаворка, валодае агульнай мовай, граніцы пашырэння якой па сутнасці супадаюць з межамі дзяржавы. Гэта краіна — Кітайская Народная Рэспубліка, колькасць насельніцтва якой перавышае мільярд чалавек. Уласна кітайцаў (ханьцаў) у КНР — прыкладна 93 %, 7 % (каля 70 мільёнаў чалавек) прыпадае на нацыянальныя меншасці. Дзяржаўная мова КНР — кітайская. Якая ж рэальная сітуацыя хаваецца за гэтай дзяржаўнай — адной! — мовай? Сучасны Кітай у моўных адносінах — гэта сукупнасць шматлікіх дыялектаў кітайскай мовы. Да іх трэба далучыць рэгіянальныя кайнэ — дыялекты буйных цэнтраў (Пекіна, Шанхая, Гуанчжоу *і інш.*), якія служаць сродкам зносін у пэўных рэгіёнах краіны. Існуе таксама агульнанародная кітайская мова — путунхуа (у перакладзе — агульная звычайная мова), якая прадстаўлена дзвюма формамі — вусна-гутарковай і пісьмова-літаратурнай. Да іх трэба дадаць яшчэ мову вэньянь — старую пісьмовалітаратурную, якая ўзнікла на базе старажытнакітайскай гутарковай мовы, што з цягам часу адарвалася ад мовы жывых вусных зносін. Акрамя таго, у краіне налічваецца болей за 80 моў нацыянальных меншасцей, якія расселены больш чым на палове тэрыторыі краіны. Сярод апошніх — мовы розных сем'яў: аўстраазіяцкай (мяо-яо, ва-палаунг, влан, в'етнамская і інш.), тайскай (буі, чжуан, кам, лі, цоў, пайван і інш.),

алтайскай (мангольская, дунсянская, уйгурская, казахская, саларская, нанайская, сібінская і інш.), індаеўрапейскай (таджыкская ў Сіньцзяне), кітайска-тыбецкай (тыбецкая, асі, сані, носу, лаху, лісу, мохо, дзінца і інш.), а таксама карэйская, якая не ўваходзіць у якую-небудзь моўную сям'ю. Трэба мець на ўвазе яшчэ і тое, што ў межах асобных моў нацыянальных меншасцей існуюць разнастайныя дыялектныя адрозненні. Так, народнасць мяо карыстаецца некалькімі дыялектамі, прычым нярэдка носьбіты аднаго дыялекта не разумеюць адзін аднаго, настолькі розныя іх мясцовыя гаворкі. У 1950-я гады кітайскія мовазнаўцы сцвярджалі, што народнасць яо гаворыць больш чым на 15 мовах. Паміж несуседнімі дыялектамі самой кітайскай мовы адрозненні ў шэрагу выпадкаў такія істотныя, што іх носьбіты не могуць паразумецца ў вуснай форме, хоць аднолькава разумеюць іерагліфічны тэкст.

Усё гэта паказвае, як цяжка падлічыць і раскласіфікаваць жывыя натуральныя мовы. Таму далей будуць ахарактарызаваны толькі найбольш значныя з іх.

Да самых пашыраных моў свету сёння адносяцца: кітайская (1085 млн. носьбітаў па даных на сярэдзіну 1987 г.), англійская (425 млн.), хіндзі разам з блізкай да яе урду (320), іспанская (290), руская (220), бенгальская (170), інданезійская (170), арабская (170), партугальская (150), японская (120), нямецкая (95), французская (95). На гэтых мовах гавораць больш за 3,3 млрд. чалавек з 5 млрд. жыхароў Зямлі. З пералічаных моў 6 з'яўляюцца афіцыйнымі і рабочымі мовамі ААН: англійская, іспанская, руская, кітайская, французская, арабская (у апошні час і нямецкая).

Зараз на Зямлі існуе 310 народаў-этнасаў, колькасць кожнага з якіх перавышае адзін мільён чалавек. Гэтыя народы складаюць 95,7 працэнта ад усяго чалавецтва. У першую сотню гэтых этнасаў уваходзяць і беларусы. Каб уявіць сабе іх месца ў сучаснай этналінгвістычнай сістэме, звернемся да наступнай табліцы:

*Літ.:* Народы мира: Ист.-этногр. справочник. М., 1988; Население мира: Демогр. справочник. М., 1989; Языки народов СССР. Т. 1—5. М.; Л., 1966—68; Языки Азии и Африки. [Кн.] 1—4. М., 1976—91; Les langues du monde. 2 éd. Paris, 1952; Milewski T. Językoznawstwo. Warszawa, 1965. *А. Я. Міхневіч.*

**Народы і мовы свету (сто першых пазіцый)**

| Нумар народа ў залежнасці ад колькасці | Назва народа | Колькасць, млн. чалавек | Моўная сям'я | Моўная група | Мова | Асноўныя краіны рассялення і іх доля ў агульнай колькасці народа (у працэнтах) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 1 | кітайцы (хань) | 1047,95 | сіна-тыбецкая | кітайская | кітайская | КНР 97,2; Тайланд 0,6; Сянган (Ганконг) 0,5 |
| 2 | хіндустанцы | 218,70 | індаеўрапейская | індаарыйская | хіндустані | Індыя 99,7 |
| 3 | амерыканцы ЗША | 187,20 | індаеўрапейская | германская | англійская | ЗША 99,4 |
| 4 | бенгальцы | 175,70 | індаеўрапейская | індаарыйская | бенгалі (банглабхаса) | Бангладэш 59,4; Індыя 40,4 |
| 5 | рускія | 146,35 | індаеўрапейская | славянская | руская | Расія 90,1 |
| 6 | бразільцы | 137,18 | індаеўрапейская | раманская | партугальская | Бразілія 99,7 |
| 7 | японцы | 122,96 | (асобная сям'я) | (асобная група) | японская | Японія 98,7; ЗША 0,6; Бразілія 0,5 |
| 8 | пенджабцы | 87,35 | індаеўрапейская | індаарыйская | пенджабі | Пакістан 75,9; Індыя 24,0 |
| 9 | біхарцы | 86,40 | індаеўрапейская | індаарыйская | бхаджпуры, магахі і майтхілі | Індыя 94,9; Непал 3,6 |
| 10 | мексіканцы | 83,69 | індаеўрапейская | раманская | іспанская | Мексіка 86,8; ЗША 13,1 |
| 11 | немцы | 82,26 | індаеўрапейская | германская | нямецкая | Германія 89,0; ЗША 6,2; Расія 2,2 |
| 12 | яванцы | 78,83 | аўстранезійская | заходнеаўстранезійская | яванская | Інданезія 99,3 |
| 13 | карэйцы | 66,75 | (асобная сям'я) | (асобная група) | карэйская | Паўднёвая Карэя 62,9; КНДР 31,9; КНР 2,8; Японія 1,0; СНД 0,6 |
| 14 | тэлугу | 66,00 | дравідыйская | паўднёва-ўсходняя | тэлугу (гентоо) | Індыя 100,0 |
| 15 | італьянцы | 65,48 | індаеўрапейская | раманская | італьянская | Італія 82,3; ЗША 7,6; Аргенціна 2,0; Францыя 1,7 |
| 16 | маратхі | 59,00 | індаеўрапейская | індаарыйская | маратхі | Індыя 100,0 |
| 17 | тамілы | 57,13 | дравідыйская | паўднёвая | тамільская | Індыя 94,9; Шры Ланка 4,9 |
| 18 | в'еты (кінь) | 55,00 | аўстраазіяцкая | в'ет-мыонгская | в'етнамская | В'етнам 99,1; Кампучыя 0,6 |
| 19 | арабы Егіпта (егіпцяне) | 50,58 | афразійская | семіцкая | арабская | Егіпет 99,4 |
| 20 | французы | 47,87 | індаеўрапейская | раманская | французская | Францыя 96,1; ЗША 1,3 |
| 21 | англічане | 47,22 | індаеўрапейская | германская | англійская | Вялікабрытанія 92,1; Канада 2,1; Аўстралія 2,0; ЗША 1,4 |
| 22 | туркі | 46,47 | алтайская | цюркская | турэцкая | Турцыя 94,7; Германія 3,0 |
| 23 | украінцы | 45,66 | індаеўрапейская | славянская | украінская | Украіна 89,2; Канада 1,2; ЗША 1,1 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 24 | палякі | 43,30 | індаеўрапейская | славянская | польская | Польшча 85,7; ЗША 8,8; СНД 2,6 |
| 25 | гуджаратцы | 42,35 | індаеўрапейская | індаарыйская | гуджараці | Індыя 96,1; Пакістан 2,0 |
| 26 | малаялі | 31,12 | дравідыйская | паўднёвая | малаялі | Індыя 99,9 |
| 27 | каннара | 31,11 | дравідыйская | паўднёвая | каннара | Індыя 99,9 |
| 28 | калумбійцы | 30,80 | індаеўрапейская | раманская | іспанская | Калумбія 94,2; Венесуэла 5,0 |
| 29 | бірманцы | 30,28 | сіна-тыбецкая | цэнтральная | бірманская | Бірма 99,1 |
| 30 | іспанцы | 29,88 | індаеўрапейская | раманская | іспанская | Іспанія 92.3; Францыя 1,7; Аргенціна 1,3 |
| 31 | сіямцы (кхантаі) | 28,13 | паратайская | тайская | сіямская | Тайланд 99,5 |
| 32 | аргенцінцы | 26,91 | індаеўрапейская | раманская | іспанская | Аргенціна 99,0 |
| 33 | афганцы (пуштуны) | 26,12 | індаеўрапейская | раманская | пушту | Пакістан 61,3; Афганістан 38,3 |
| 34 | хаўса | 25,80 | афразійская | чадская | хаўса | Нігерыя 85,3; Нігер 13,1 |
| 35 | орыя | 28,52 | індаеўрапейская | індаарыйская | орыя | Індыя 99,9 |
| 36 | бісайя | 23,40 | аўстранезійская | заходне-аўстранезійская | бісайя, себуана, хілігайнан, масбатэ, сурыгао і інш. | Філіпіны 100,0 |
| 37 | йаруба | 22,15 | нігера-кардафанская | нігер-конга | ойо, іфе, іла, іджэбу, экіці, онда і інш. | Нігерыя 97,1; Бенін 1,6 |
| 38 | персы | 21,91 | індаеўрапейская | іранская | фарсі | Іран 97,2 |
| 39 | сунды | 21,70 | аўстранезійская | заходне-аўстранезійская | суданская | Інданезія 100,0 |
| 40 | румыны | 21,02 | індаеўрапейская | раманская | румынская | Румынія 98,5 |
| 41 | фульбе | 20,05 | нігера-кардафанская | нігер-конга | фульбе | Нігерыя 58,9; Гвінея 13,1; Малі 6,1; Сенегал 6,0; Камерун 5,3; Нігер 3,3 |
| 42 | арабы Алжыра (алжырцы) | 19,88 | афразійская | семіцкая | арабская | Алжыр 95,6; Францыя 4,0 |
| 43 | ігба (іба) | 18,25 | нігера-кардафанская | нігер-конга | аніча, аверы | Нігерыя 99,7 |
| 44 | амхара | 18,16 | афразійская | семіцкая | амхара (амарынья) | Эфіопія 99,9 |
| 45 | арабы Марока (мараканцы) | 18,00 | афразійская | семіцкая | арабская | Марока 94,4; Францыя 2,7 |
| 46 | раджастханцы | 18,00 | індаеўрапейская | індаарыйская | раджастхані | Індыя 98,3 |
| 47 | арома (гала) | 17,83 | афразійская | кушыцкая | арома | Эфіопія 98,7 |
| 48 | узбекі | 17,31 | алтайская | цюркская | узбекская | СНД 90,1; Афганістан 9,8 |
| 49 | сіндхі | 16,80 | індаеўрапейская | індаарыйская | сіндхі | Пакістан 85,7; Індыя 14,3 |
| 50 | лао | 16,79 | паратайская | тайская | тхай-лаоская | Тайланд 84,6; Лаос 15,2 |
| 51 | венесуэльцы | 15,77 | індаеўрапейская | раманская | іспанская | Венесуэла 99,6 |
| 52 | азербайджанцы | 14,50 | алтайская | цюркская | азербайджанская | Азербайджан 40,4; Іран 55,2 |



# НАСОВІЧ ІВАН ІВАНАВІЧ



Беларускі філолаг, этнограф, фалькларыст, лексікограф. І. І. Насовіч нарадзіўся 26 верасня 1788 г. ў сяле Гразівец былога Быхаўскага павета (цяпер Чавускі раён) Магілёўскай губерні ў сям'і праваслаўнага святара. Пачатковую адукацыю атрымаў ад бацькі, чалавека дасведчанага, які добра ведаў латынь, стараславянскую мову, рускую славеснасць, мову свайго народа, якая гучала ў штодзённым жыцці. Пасля сканчэння Магілёўскай духоўнай семінарыі (1812) быў накіраваны інспектарам і выкладчыкам рускай славеснасці вышэйшага аддзялення Аршанскага павятовага духоўнага вучылішча. Праз год пераведзены на такую ж пасаду ў Мсціслаўскае вучылішча, а ў 1818 г. прызначаны рэктарам гэтага вучылішча, дзе адначасова выкладаў рускую славеснасць і лацінскую мову.

У 1829 г. І. І. Насовіч прызначаны на пасаду наглядчыка Маладзечанскага 5-класнага дваранскага вучылішча. У 1834 г. яго перавялі старшым выкладчыкам рускай славеснасці і лацінскай мовы ў Свянцянскае дваранскае вучылішча, а праз некаторы час прызначылі кіраўнікам гэтага вучылішча.

Кожны пераезд у новы рэгіён даваў магчымасць І. І. Насовічу знаёміцца з гаворкай жыхароў, вывучаць адметныя асаблівасці іх маўлення, запісваць пачутыя прыказкі і прымаўкі, песні і павер'і, народныя былі і анекдоты. Так, за 30-гадовы перыяд педагагічнай дзейнасці ім сабрана вялікая колькасць моўных, этнічных і фальклорных матэрыялаў.

Пасля выхаду на пенсію ў 1843 г. І. І. Насовіч вярнуўся ў Мсціслаў,

дзе заняўся навукова-даследчай работай. Ужо ў 1850 г. ён падрыхтаваў для публікацыі тры першыя працы: «Кароткае філалагічнае назіранне над беларускай гаворкай», «Збор да 1000 беларускіх прыказак» і «Кароткі збор беларускіх слоў» з тлумачэннем іх сэнсу і характарыстыкай вымаўлення.

Творчая актыўнасць і працавітасць І. І. Насовіча звярнулі на сябе ўвагу Археаграфічнай камісіі і Аддзялення этнаграфіі Рускага геаграфічнага таварыства. Гэтыя ўстановы мелі вялікую патрэбу ў гістарычным слоўніку, які б дазваляў даследчыкам свабодна карыстацца і дакладна разумець старажытныя дакументы па гісторыі Беларусі часоў знаходжання яе ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай. Укладанне слоўніка на аснове 5-томнага збору «Актаў, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» было даручана ў верасні 1853 г. І. І. Насовічу. Распісванне слоў на карткі з пацвярджальнымі цытатамі з 5 тамоў старажытных дакументаў і распрацоўка структуры гістарычнага слоўніка пры адсутнасці адпаведных узораў і прынцыпаў укладання падобных даведнікаў патрабавала шмат часу. За тры з паловай гады І. І. Насовіч у пачатку 1857 г. завяршыў работу, і рукапіс слоўніка пад назвай «Алфавітны паказальнік старажытных беларускіх слоў, выбраных з «Актаў, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» даслаў у Імператарскую Акадэмію навук. Рукапіс налічвае 1110 старонак вялікага фармату і змяшчае каля 13 тысяч растлумачаных слоў.

Тонка адчуваючы сэнсавы аб'ём уключанага ў слоўнік лексічнага матэрыялу, лексікограф у сваёй рабоце кіраваўся прынцыпам дастатковасці семантычнай інтэрпрэтацыі. Таму адны беларускія словы ён тлумачыў шляхам перакладу іх адпаведнымі рускімі (**Багна** — *Болото;* **Досягненье** — *Достиженіе;* **Едвабъ** — *Шолкъ и шолковая матерія),* для другіх выкарыстоўваў лексічную сінаніміку (**Выгребтися** — *Выйти, выползти, вырваться;* **Вышарпати** — *Выдрать, вырвать* і пад.). Пры адсутнасці адпаведных рускіх сінонімаў выкарыстоўваў апісальны прынцып тлумачэння (**Блуканье** — *Броженіе по разнымъ странамъ;* **Гаковница** — *Родъ огнестрельнаго оружія или пушки съ крюкомъ, коимъ задѣвали за чурбанъ, чтобы при выпаленіи не отдавалося назадъ).* У тых жа выпадках, калі старое беларускае слова ўтварылася на аснове якога-небудзь іншамоўнага слова, лексікограф высвятляў яго этымалогію і затым даваў тлумачэнне і ілюстрацыю, напрыклад: ***Дыбати*** (от нѣм. Dieb — воръ). *Итти на цыпочкахъ, подкрадываться. Яко волкъ до овец дыбати звыклъ.*

У Акадэміі навук для разгляду і

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 53 | венгры | 14,38 | уральская | фіна-угорская | венгерская | Венгрыя 73,4; Румынія 12,2; ЗША 4,2; Славакія 4,0; Югаславія 3,0 |
| 54 | чжуан | 14,30 | паратайская | тайская | чжуан | КНР 100,0 |
| 55 | курды | 13,86 | індаеўрапейская | іранская | курдская | Турцыя 39,7; Іран 31,0; Ірак 23,4; Сірыя 4,7 |
| 56 | партугальцы | 13,67 | індаеўрапейская | раманская | партугальская | Партугалія 75,1; Бразілія 9,1; Францыя 6,2; ЗША 4,4 |
| 57 | кечуа | 13,54 | андская | кечуа | кечуа | Перу 52,4; Эквадор 28,6; Балівія 16,2; Аргенціна 2,2 |
| 58 | тагалы | 13,40 | аўстранезійская | заходне-аўстранезійская | тагалог | Інданезія 100,0 |
| 59 | асамцы | 13,19 | індаеўрапейская | індаарыйская | асамская | Індыя 98,6 |
| 60 | арабы Ірака (іракцы) | 13,12 | афразійская | семіцкая | арабская | Ірак 99,1 |
| 61 | галандцы | 12,83 | індаеўрапейская | германская | нідэрландская (галандская) | Нідэрланды 90,6; Канада 3,2; ЗША 3,0 |
| 62 | перуанцы | 12,75 | індаеўрапейская | раманская | іспанская | Перу 99,2 |
| 63 | арабы Судана (суданцы) | 12,57 | афразійская | семіцкая | арабская | Судан 89,1; Чад 10,8 |
| 64 | англа-аўстралійцы | 12,39 | індаеўрапейская | германская | англійская | Аўстралія 98,1 |
| 65 | сінгалы (ланкійцы) | 12,36 | індаеўрапейская | індаарыйская | сінгальская | Шры Ланка 99,9 |
| 66 | чылійцы | 11,83 | індаеўрапейская | раманская | іспанская | Чылі 9,68; Аргенціна 1,7 |
| 67 | арабы ЙАР і НДРЙ (йеменцы) | 11,73 | афразійская | семіцкая | арабская | ЙАР 72,5; НДРЙ 19,0; Саудаўская Аравія 8,5 |
| 68 | грэкі | 11,70 | індаеўрапейская | грэчаская | новагрэчаская | Грэцыя 81,6; ЗША 4,7; СНД 3,0; Германія 2,3 |
| 69 | непальцы | 11,40 | індаеўрапейская | індаарыйская | непалі | Непал 83,3; Індыя 16,7 |
| 70 | англа-канадцы | 11,10 | індаеўрапейская | германская | англійская | Канада 92,8; ЗША 6,3 |
| 71 | кубінцы | 10,92 | індаеўрапейская | раманская | іспанская | Куба 91,8; ЗША 7,4 |
| 72 | чэхі | 10,62 | індаеўрапейская | славянская | чэшская | Чэхія 89,6; ЗША 4,7 |
| 73 | арабы Саудаўскай Аравіі (саудаўцы) | 10,52 | афразійская | семіцкая | арабская | Саудаўская Аравія 99,8 |
| 74 | малагасійцы | 10,50 | аўстранезійская | заходне-аўстранезійская | малагасійская | Мадагаскар 100,0 |
| 75 | руанда | 10,40 | нігера-кардафанская | нігер-конга | руанда | Руанда 58,7; Заір 30,6; Уганда 9,2 |
| 76 | беларусы | 10,02 | індаеўрапейская | славянская | беларуская | Беларусь 95,1; Польшча 1,6 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 77 | арабы Сірыі (сірыйцы) | 9,93 | афразійская | семіцкая | арабская | Сірыя 99,2 |
| 78 | малайцы Малайзіі | 9,85 | аўстранезійская | заходне-аўстранезійская | малайская | Малайзія 73,2; Тайланд 20,3; Сінгапур 3,9 |
| 79 | мадурцы | 9,50 | аўстранезійская | заходне-аўстранезійская | мадурская | Інданезія 100,0 |
| 80 | малайцы Інданезіі | 9,38 | аўстранезійская | заходне-аўстранезійская | малайская | Інданезія 99,1 |
| 81 | балгары | 9,29 | індаеўрапейская | славянская | балгарская | Балгарыя 93,6; СНД 4,1 |
| 82 | сербы | 9,12 | індаеўрапейская | славянская | сербскахарвацкая | Югаславія 93,2; ЗША 2,5 |
| 83 | шведы | 8,99 | індаеўрапейская | германская | шведская | Швецыя 86,8; ЗША 9,1; Фінляндыя 3,3 |
| 84 | *казахі* | 8,84 | *алтайская* | цюркская | казахская | СНД 87,7; КНР 11,0 |
| 85 | франка-канадцы | 8,86 | індаеўрапейская | раманская | французская | Канада 77,3; ЗША 22,6 |
| 86 | аўстрыйцы | 8,53 | індаеўрапейская | германская | нямецкая | Аўстрыя 81,5; ЗША 14,1; Германія 2,0 |
| 87 | макуа | 8,45 | нігера-кардафанская | нігер-конга | імакуа | Мазамбік 80,5; Малаві 16,1 |
| 88 | кхмеры | 8,18 | аўстраазіяцкая | мон-кхмерская | кхмерская | Кампучыя 80,7; В'етнам 10,4; Тайланд 7,9 |
| 89 | яўрэі зарубежнай Еўропы і Амерыкі | 8,06 | індаеўрапейская | германская | ідыш, англійская і інш. | ЗША 73,4; Францыя 8,1; Вялікабрытанія 5,1; Аргенціна 3,7 |
| 90 | шона | 8,00 | нігера-кардафанская | нігер-конга | чышона | Зімбабве 77,5; Мазамбік 20,6 |
| 91 | каталонцы | 7,89 | індаеўрапейская | раманская | каталонская | Іспанія 91,9; Францыя 3,2; Аргенціна 1,8 |
| 92 | хуэй | 7,86 | сіна-тыбецкая | кітайская | кітайская | КНР 99,2; Расія 0,8 |
| 93 | арабы Туніса (тунісцы) | 7,77 | афразійская | семіцкая | арабская | Туніс 95,8; Францыя 2,6 |
| 94 | конга | 7,60 | нігера-кардафанская | нігер-конга | конга | Заір 69,7; Ангола 15,8; Конга 13,7 |
| 95 | ірландцы | 7,60 | індаеўрапейская | кельцкая | англійская, ірландская | Ірландыя 46,1; Вялікабрытанія 30,3; ЗША 19,7; Канада 2,5 |
| 96 | таджыкі | 7,57 | індаеўрапейская | іранская | таджыкская | Афганістан 51,5; СНД 47,8 |
| 97 | *малаві* | 7,40 | *нігера-карда*фанская | *нігер-конга* | малаві | Малаві 59,5; Мазамбік 23,6; Замбія 12,6; Зімбабве 3,5 |
| 98 | рундзі | 7,40 | нігера-кардафанская | нігер-конга | рундзі | Бурундзі 64,9; Заір 16,2; Танзанія 7,7; Уганда 7,0 |

ацэнкі слоўніка была створана камісія ў складзе акадэмікаў А. Х. Вастокава, І. І. Сразнеўскага і М. А. Каркунова. Камісія высока ацаніла слоўнік, рэкамендавала яго да друку і аднагалосна прысудзіла І. І. Насовічу Увараўскую прэмію — 1500 руб. серабром. Але слоўнік так і застаўся ненадрукаваным. І хоць прайшло больш за 100 гадоў з часу стварэння гэтага унікальнага даведніка, ён не страціў навуковай каштоўнасці і працягвае служыць беларускай філалогіі, а рэалізаваныя ў слоўніку задумы надаюць яму значэнне вераготнага зводу ведаў аб матэрыяльным і духоўным жыцці беларускага народа мінулых стагоддзяў, ставяць яго ў шэраг выдатных помнікаў нацыянальнай культуры.

Працуючы над гістарычным слоўнікам, І. І. Насовіч займаўся таксама ўкладаннем *слоўніка жывой народнай* мовы, над якім працаваў 16 гадоў. У 1870 г. «Слоўнік беларускай мовы» ўбачыў свет (гл. **«Слоўнік беларускай мовы» І. Насовіча).**

Дасведчаныя колы грамадства ацанілі слоўнік як унікальную працу, якая можа служыць найлепшым упрыгожаннем рускай вучонай літаратуры.

Пасля выхаду слоўніка з друку І. І. Насовіч не спыняў працы па збіранні дадатковых лексічных матэрыялаў, аб чым сведчыць «Дадатак да беларускага слоўніка», апублікаваны пасля смерці аўтара ў «Зборніку Аддзялення рускай мовы і славеснасці імператарскай Акадэміі навук» (Спб., 1881. Т. 21, № 6). Гэты дадатак уключаны ў другое, факсімільнае выданне «Слоўніка беларускай мовы», які выйшаў у 1983 г. да 200-годдзя з дня нараджэння І. І. Насовіча.

Значнае месца ў творчай спадчыне І. І. Насовіча займаюць фальклорна-этнаграфічныя працы. Адна з такіх прац — «Зборнік беларускіх прыказак» (1874). Зборнік вылучаецца змястоўнай прадмовай, тонкай інтэрпрэтацыяй сэнсу кожнай прыказкі, надрадковымі знакамі, пры дапамозе якіх І. І. Насовіч імкнуўся дакладна паведаміць чытачу народнае гучанне гэтай «крылатай мудрасці». Лексічны паказальнік у канцы кнігі тлумачыць больш за дзве тысячы ўжытых у прыказках незразумелых слоў тыпу *амбарас, змуста, копша, лотр, садухі, тумар, чулінда, яруха.*

У абсяг навуковых інтарэсаў І. І. Насовіча ўваходзілі і пытанні гісторыі Беларусі. Найбольшую ўвагу даследчыка прыцягвала старажытная і навейшая гісторыя краю.

У 1868 г. І. І. Насовіч прадставіў Імператарскаму археалагічнаму таварыству трактат «Аб плямёнах да часоў Рурыка, што засялялі беларускую тэрыторыю», у якім тлумачыць сэнс старажытных народных назваў плямён, даводзіць паходжанне гэтых назваў

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 99 | індзейцы розных груп і сем'яў, якія гавораць пераважна на іспанскай мове | 7,35 | — | — | — | Мексіка 68,0; Гватэмала 32,0 |
| 100 | зулу | 7,17 | нігера-кардафанская | нігер-конга | нгуні | ЮАР 96,2 |

ад карэнных беларускіх слоў: *крывічы* — ад слова «кроў»; *дрыгавічы* — ад беларускага слова «дрыгва» — топкае месца; *радзімічы* — ад слова «рада».

У 1946—48 гг. у г. Дзаўджыкаў (зараз Уладзікаўказ, Паўночная Асеція) М. Р. Суднікам была адшукана мемуарная праца І. І. Насовіча «Успаміны майго жыцця», у якой прасочваецца жыццё некалькіх пакаленняў насовічаўскай радаслоўнай, характарызуецца мсціслаўскае духоўнае і свецкае асяроддзе, раскрываецца духоўны свет беларускай настаўніцкай інтэлігенцыі тых часоў (рукапіс захоўваецца ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі).

Апошнія гады І. І. Насовіч правёў у Мсціславе. 25 ліпеня 1877 г. абарваўся яго жыццёвы шлях. Пахаваны ў Мсціславе на могілках Тупічэўскага манастыра.

*Літ.*: Ш е й н П. И. И. Носович: (Краткий биогр. очерк) // Изв. Отд-ния рус. языка и словесности имп. Академии наук. 1900. Т. 5, кн. 3; С у д н и к М. Р. И. И. Носович и современность // Информ. бюл. «Новости ЮНЕСКО». Париж, 1977. № 11; Я г о ж. Іван Іванавіч Насовіч — выдатны вучоны і асветнік: (Да 200-годдзя з дня нараджэння) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 2; Г у л і ц к і М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1978; Ц і ш ч а н к а І. Першапраходзец // Полымя. 1983. № 10.

*М. Р. Суднік.*

## НАЦІСК

Націск — інтанацыйнае выдзяленне аднаго са складоў неаднаскладовага слова. Склад, на які падае націск, называецца націскным, усе астатнія — ненаціскныя: *высо́кі, па́рта, вы́чань, ме́сяц.*

Вылучаюць тры асноўныя тыпы націску: сілавы, або дынамічны; музычны, або танічны; колькасны, або квантытатыўны. У беларускай мове, як і ў многіх іншых славянскіх (рускай, украінскай, чэшскай, польскай, балгарскай) і неславянскіх (французскай, нямецкай) мовах, націск сілавы. Ён характарызуецца тым, што націскны склад у адрозненне ад ненаціскнога вымаўляецца з большай сілай голасу. Ёсць мовы, у якіх націск замацаваны за пэўным складам (напрыклад, у французскай — за апошнім, у польскай — за перадапошнім, у чэшскай — за першым). Такі націск называецца фіксаваным.

У беларускай мове націск не замацаваны за пэўным складам, а ў розных словах можа знаходзіцца на любым складзе: на першым (*кні́га, ве́расень, во́сень, до́бры, со́нца*); на другім (*малі́на, чырво́ны, даро́га, стая́ць, вада́*); на трэцім (*ветэра́н, дарагі́, верабе́й, памяркоўна*); на чацвёртым (*перабудо́ва, архітэкту́ра, карэспандэ́нт*); на пятым (*веласіпеды́ст, перавыхава́нне*); на шостым (*рэвалюцыяне́р*). У беларускай мове націск можа быць таксама на любой марфеме: на прыстаўцы (*вы́несці*), на корані (*перане́сці*), на суфіксе (*нерво́вы*), на канчатку (*верасы́*). Такі націск называецца свабодным або разнамесным. Разнамеснасць націску робіць яго індывідуальнай прыкметай кожнага асобна ўзятага слова. У залежнасці ад характару размяшчэння націску ў словаформах парадыгмы (у склонавых формах скланяльных слоў і ў спрагальных формах дзеяслова) разнамесны націск можа быць рухомы і нерухомы. Калі ва ўсіх словаформах парадыгмы месца націску не мяняецца (*па́рта — па́рту — па́ртай — па́рце*), ён называецца нерухомым. І наадварот, рухомым націск будзе тады, калі ў частцы форм парадыгмы ён перамяшчаецца на іншы склад (*сы́н — сыны́, рака́ — рэ́кі, вада́ — во́ды*).

Звычайна кожнае самастойнае слова мае адзін націск, але ў беларускай мове ёсць многаскладовыя, вялікія па аб'ёму словы, якія могуць мець два націскі: *самалётабудава́нне, зако̀напалажэ́нне* (гэта звычайна складаныя словы). Адзін з націскаў называецца асноўным, а другі, больш слабы,— пабочным. Пабочны націск знаходзіцца бліжэй да пачатку слова, а асноўны — бліжэй да канца. Асноўны націск абазначаецца значком а к у т а (΄), а пабочны — значком г р а в і с а (`). У слове з трох асноў (гэта найчасцей складанаскарочаныя словы) можа быць і тры націскі — адзін асноўны і два пабочныя: *мо̀тавѐлаго́нкі.* Пабочны націск характарызуе не ўсе складаныя словы. Многія з іх, асабліва тыя, якія часта ўжываюцца (*пыласо́с, вадаспа́д, вадаво́з* і інш.), не маюць пабочнага націску.

У беларускай мове націск у моўнай плыні маюць толькі лексічна і граматычна самастойныя словы: назоўнік, прыметнік, дзеяслоў, лічэбнік, займеннік, прыслоўе. Непаўназначныя (службовыя) словы звычайна націску не маюць. Яны ў якасці ненаціскнога склада прымыкаюць да папярэдняга ці да наступнага слова: *на по́ле, па ваду́, на до́м* (у рускай мове: *на́ поле, по́ воду, на́ дом*). Калі службовыя словы ўжываюцца асобна, то яны маюць націск: *каля́, пе́рад, вако́л.*

Ненаціскныя словы, якія прымыкаюць да наступнага самастойнага слова, называюцца п р а к л і т ы к а м і. Найчасцей праклітыкамі з'яўляюцца прыназоўнікі і злучнікі (*перад навальніцай, у школу, пасля ўрокаў, дзень і ноч*). Ненаціскныя словы, якія прымыкаюць да папярэдняга самастойнага слова, называюцца э н к л і т ы к а м і. Энклітыкамі звычайна бываюць часціцы (*прынёс жа, прачыта́ў бы*) і іншыя часціны мовы (*да́й мне*).

Асноўная функцыя слоўнага націску — фанетычнае аб'яднанне складоў у слове. Не менш важнай з'яўляецца і словаразмежавальная функцыя. Так, дзякуючы разнамеснасці і рухомасці націск можа служыць для адрознення слоў, якія маюць аднолькавы гукавы склад, але абазначаюць розныя паняцці: *ка́са — каса́, ра́са — раса́, па́ра — пара́, пла́чу — плачу́* і інш. У другіх выпадках націск служыць для адрознення граматычных форм аднаго і таго ж слова: *пі́лы — пілы́, ру́кі — рукі́, но́гі — нагі́*; форм закончанага і незакончанага трывання дзеяслова: *склі́каць — скліка́ць, рассы́паць — рассыпа́ць.*

Звычайна націск у кожнай словаформе мае сваё сталае месца. Аднак па розных прычынах у многіх словах беларускай мовы назіраецца няўстойлівасць націску. У мове побач з літаратурнай нормай існуюць акцэнталагічныя варыянты. Многія з іх лічацца дапушчальнымі, іншыя ж — няправільнымі. Наяўнасць у мове акцэнталагічных варыянтаў звязана з пранікненнем у літаратурную мову дыялектных і прафесійных слоў (*сла́бы — слабы́, жы́хар — жыха́р, ця́жар — цяжа́р, ко́мпас — кампа́с* і інш.), з уплывам рускай мовы на акцэнтную сістэму беларускай мовы (*абу́тнік — абутні́к* і інш.), з няправільным засваеннем месца націску ў запазычаных словах (*дакуме́нт — даку́мент, алфаві́т — алфа́віт, кіламе́тр — кіло́метр, азбе́ст — а́збест, про́паліс — прапо́ліс* і інш.). Трэба памятаць, што дыялектныя, прастамоўныя і прафесійныя варыянты націскаў не з'яўляюцца нарматыўнымі.

Акрамя слоўнага націску, вылуча-

юць яшчэ **т а к т а в ы**, або **с і н т а г м а т ы ч н ы**, націск. Напрыклад, фраза *Заспявай ты мне песню такую, // Каб душу мне паліла яна, // Каб у ёй ты нядолю людскую, // І ўсё вычарпаў гора да дна* (Я. Колас) члeніцца на 4 такты. Словы *такую, паліла, нядолю, гора* знаходзяцца пад тактавым націскам, асноўная функцыя якога — аб'яднанне некалькіх слоў у такт.

Выдзяленне больш моцным націскам аднаго або некалькіх слоў у межах фразы называецца **ф р а з а в ы м** або **л а г і ч н ы м** націскам. Фразавы націск звычайна падае на апошні такт фразы. Так, у фразе *Родны Мінск я пакінуў, // Пажарам і бомбамі гнаны* // (А. Куляшоў) фразавы націск падае на такт *Пажарам і бомбамі гнаны.* Функцыя такога націску — узмацненне сэнсавай нагрузкі нейкага аднаго ці некалькіх слоў у сказе.

У спецыяльнай мовазнаўчай літаратуры сустракаецца яшчэ паняцце **э м ф а т ы ч н а г а** націску — вылучэнне пэўнага склада з асобым напружаннем, працяглым вымаўленнем: *Яка-а-я прыгожая*! З яго дапамогай перадаюцца эмоцыі, пачуцці таго, хто гаворыць, да ўбачанага, пачутага.

Правільная пастаноўка націску з'яўляецца неабходнай умовай культуры вуснай мовы.

Раздзел мовазнаўства, у якім вывучаецца фанетычная прырода націску, яго месца ў слове, функцыі, называецца **а к ц э н т а л о г і я й**.

*Літ.*: Б і р ы л а М. В. Націск назоўнікаў у сучаснай беларускай мове. Мн., 1986; І в а ш у ц і ч Я. М. Націск у дзеяслоўных формах сучаснай беларускай мовы. Мн., 1981; Л о б а н М. П. Націск у назоўніках з невытворнай асновай у сучаснай беларускай літаратурнай мове // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 4. *Л. П. Кунцэвіч.*

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА

Нацыянальнай называецца мова, якая з'яўляецца сродкам пісьмовых і вусных зносін нацыі. Нацыянальная мова — катэгорыя гістарычная: яна складваецца ў перыяд пераўтварэння народнасці ў нацыю, таму што нацыя як гістарычная супольнасць акрамя агульнасці тэрыторыі, эканамічнага жыцця і псіхічнага складу характарызуецца і агульнасцю мовы. Мова — найважнейшы сродак зносін паміж людзьмі, і агульнасць мовы з'яўляецца важнай умовай эканамічнай і палітычнай канцэнтрацыі жыцця грамадства ў перыяд складвання нацыі.

У склад нацыянальнай мовы ўваходзяць і літаратурная мова, і мясцовыя гаворкі, і прастамоўе, і сацыяльныя дыялекты. Аднак яны не з'яўляюцца раўнапраўнымі. У эпоху фарміравання нацый адбываецца станаўленне адзінай літаратурнай мовы, якая пачынае абслугоўваць усе сферы пісьмовых і вусных зносін і паступова выцясняе астатнія разнавіднасці нацыянальнай мовы. Распаўсюджваецца адзінае вуснае літаратурнае маўленне. Працэс пашырэння літаратурнай мовы асабліва паскараецца ў перыяды інтэнсіўнага сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця нацыі. Павышэнне агульнаадукацыйнага ўзроўню, узрастанне ролі сродкаў масавай інфармацыі (перыядычнага друку, радыё, тэлебачання) ствараюць спрыяльныя ўмовы для шырокага распаўсюджання літаратурнай мовы сярод усіх прадстаўнікоў нацыі. Гэта, у сваю чаргу, вядзе да звужэння ролі і функцый мясцовых гаворак і іншых разнавіднасцей нацыянальнай мовы.

Звычайна кожная нацыя атаясамліваецца з адной нацыянальнай мовай, напрыклад, французы — з французскай, шведы — са шведскай, палякі — з польскай, грузіны — з грузінскай, украінцы — з украінскай і г. д. Аднак у сучасным свеце нярэдкія сітуацыі, калі адна нацыя карыстаецца некалькімі мовамі. Тыповым прыкладам можа служыць Швейцарыя. Швейцарцы — адна нацыя, аднак карыстаюцца французскай, нямецкай, італьянскай і рэтараманскай мовамі. У сучасным Парагваі індзейцы гуарані складаюць больш за 90 % насельніцтва краіны. Таму мова гуарані мае такі ж высокі прэстыж, як і афіцыйная іспанская мова. Сёння гуарані ў гэтай краіне з'яўляецца нацыянальнай мовай, якая выкарыстоўваецца ў розных сферах грамадскага жыцця.

З другога боку, можна прывесці прыклады, калі адна мова з'яўляецца сродкам зносін некалькіх нацый, напрыклад іспанская ў краінах Лацінскай і Цэнтральнай Амерыкі. У такіх выпадках фарміруюцца нацыянальныя варыянты той ці іншай мовы: англійская брытанская, англійская амерыканская, англійская аўстралійская і г. д.

Сучасная літаратурная беларуская мова як вышэйшая форма нацыянальнай мовы пачала складвацца ў 19 ст. Гэты працэс супаў з перыядам так званага славянскага адраджэння, калі адбывалася інтэнсіўнае фарміраванне славянскіх нацый і новых славянскіх літаратурных моў. Асаблівасцю складвання мовы беларускай нацыі было тое, што новая беларуская мова амаль не мела традыцый пераемнасці з пісьмовай старабеларускай мовай — мовай беларускай народнасці — і складвалася на народна-гутарковай аснове. Каля вытокаў сучаснай беларускай нацыянальнай мовы стаяць В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч. Станаўленне адзінай беларускай літаратурнай мовы асабліва інтэнсіўна ішло ў пачатку 20 ст., калі на літаратурнай арэне з'явіліся Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, Цётка, А. Гарун, З. Бядуля, Ц. Гартны, М. Гарэцкі і іншыя таленавітыя літаратары, якія залажылі фундамент нармалізаванай беларускай мовы. Выключна важную ролю ў гэтым працэсе адыгралі першыя легальныя беларускія газеты «Наша доля» і асабліва «Наша ніва». Менавіта ў гэты перыяд актыўна папаўняўся лексічны склад беларускай літаратурнай мовы, фарміраваліся яе асноўныя лексічныя, граматычныя і арфаэпічныя нормы (гл. **Літаратурная мова**).

У 1920-я гады беларуская мова набыла ўсе правы і функцыі нацыянальнай мовы. Упершыню пасля некалькіх стагоддзяў перарыву яна пачала абслугоўваць усе сферы моўнага жыцця беларускай нацыі. Значнае пашырэнне грамадскіх функцый спрыяла і развіццю самой беларускай нацыянальнай мовы, і ў першую чаргу яе літаратурнай формы. За кароткі час значна ўзбагаціўся слоўнікавы запас, развіліся функцыянальныя стылі, удасканаліўся граматычны лад, замацаваліся літаратурныя нормы, была створана навуковая тэрміналогія. У гэтым вялікая заслуга беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў беларускай навукі, культуры, мастацтва. На сучасным этапе беларуская нацыянальная мова паспяхова выконвае свае функцыі ў розных сферах зносін паміж людзьмі, на ёй ствараецца разнастайная мастацкая літаратура, выдаюцца газеты і часопісы, друкуюцца навуковыя працы, яна гучыць па радыё і на тэлебачанні, што з'яўляецца сведчаннем высокага ўзроўню яе развіцця.

Важнай часткай сучаснай беларускай нацыянальнай мовы з'яўляюцца народныя гаворкі. І хоць сфера іх ужывання звузілася, а таксама зменшылася колькасць іх носьбітаў, народныя гаворкі служаць істотнай крыніцай узбагачэння літаратурнай мовы. Яны — асноўны сродак зносін для сельскіх жыхароў. Асаблівасці станаўлення беларускай нацыянальнай мовы, яе функцыяніравання ў розных сферах грамадскага ўжытку абумовілі адсутнасць у ёй пэўных пластоў прастамоўя, у прыватнасці гарадскога, як асобнай разнавіднасці нацыянальнай мовы. Але сучасная беларуская мова мае некаторую колькасць прастамоўных лексічных і фразеалагічных адзінак у слоўнікавым складзе паводле яго стылістычнай дыферэнцыяцыі. Фактам гісторыі з'яўляюцца і шматлікія ўмоўныя мовы Беларусі.

Асаблівасцю існавання сучаснай беларускай нацыянальнай мовы з'яўляецца тое, што яна функцыяніруе і развіваецца практычна ва ўмовах двухмоўя, г. зн. ва ўмовах канкурэнцыі з другой мовай — рускай. Гэта акалічнасць абумоўлівае спецыфіку яе выкарыстання ў розных сферах грамадскіх зносін. Так, на працягу апошніх дзесяцігоддзяў выкарыстанне беларускай мовы ў шэрагу найважнейшых сфер неапраўдана звужалася, што паставіла пад пагрозу яе статус як поўнафункцыянальнай мовы. Абуджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў, дэмакратычныя працэсы ў

нашым грамадстве з сярэдзіны 1980-х гадоў абумовілі пачатак працэсу новага адраджэння беларускай мовы, накіраваны на тое, каб беларуская мова зноў пачала адыгрываць ролю, якую павінна адыгрываць нацыянальная мова ў жыцці сучаснай нацыі. Гэтаму працэсу павінен спрыяць прыняты ў 1990 г. «Закон БССР аб мовах у Беларускай ССР», згодна з якім беларуская мова набыла ў Рэспубліцы Беларусь статус дзяржаўнай мовы.

*Літ.*: Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб мовах у Беларускай ССР. Мн., 1990. *А. А. Лукашанец.*

## «НАША НІВА»

«Наша ніва» — беларуская грамадска-палітычная, навукова-папулярная і літаратурна-мастацкая газета, якая выходзіла ў 1906—15 гг. у Вільні. Асновай праграмы «Нашай нівы» было «будзіць у беларусаў пачуццё чалавека і грамадзяніна», голасна гаварыць пра яго патрэбы і правы (1909, № 50). Газета была трыбунай і выразніцай інтарэсаў рабочых і беднага сялянства. У ёй друкаваліся Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, Цётка, А. Гарун, Г. Леўчык, Ц. Гартны, У. Галубок, К. Буйло, З. Бядуля, М. Гарэцкі, публіцысты А. Уласаў, А. Луцкевіч, В. Ластоўскі, Л. Гмырак і інш. Змяшчаючы артыкулы па спецыяльных і палітычных пытаннях, газета садзейнічала развіццю нацыянальнай свядомасці працоўных, выконвала асветніцкія задачы. Шмат увагі ўдзяляла яна і роднай мове. У артыкулах А. Луцкевіча «Родная мова і яе культурнае значэнне» (1910, № 42), «Беларуская мова ў апошнім пяцілецці» (1911, № 45), В. Ластоўскага «Родная мова» (1914, № 6), Л. Гмырака «Мова ці гутарка» (1914, № 7), Я. Купалы «Ці маем мы права выракацца роднай мовы?» (1914, № 15) і інш. сцвярджалася, што беларуская мова — нацыянальнае багацце беларусаў, народны скарб, у якім сабрана і захавана ўсё найлепшае, што ўздымае чалавека на найвышэйшую ступень культуры. Беларусы засталіся народам толькі таму, што ў іх была родная мова, бо «яна калыска душы, гордасць і імя народу». У артыкулах Я. Манькоўскага «Ці маем права быць беларусамі?» (1912, № 22—23, 26), Б. Пачопкі «Якім павінен быць беларус?» (1912, № 30), В. Ластоўскага «Кудой дарога?» (1913, № 1), М. Арла «Што гаворыць п. Мачульская аб беларусах і іх нацыянальным адраджэнні» (1913, № 12) настойліва падкрэсліваліся пытанні, звязаныя з абуджэннем нацыянальнай свядомасці беларускага народа, імкненнем перадавых людзей нацыі «людзьмі звацца». Сцвярджалася, што беларусы павінны ствараць сваю нацыянальную культуру на роднай мове, паднімаць агульную культуру праз развіццё народных асаблівасцей, развіваць сваю мову, каб узбагаціць агульначалавечую культуру. 7 чэрвеня 1913 г. ў «Нашай ніве» быў нават аб'яўлены конкурс на лепшыя творы для сцэны, за якія абяцаліся грашовыя ўзнагароды. Патрабавалася, каб твор быў напісаны добрай беларускай мовай. Газета выступала з патрабаваннямі і абгрунтаваннем права беларускага народа мець школу на роднай мове: артыкулы А. Луцкевіча «Школы і граматнасць у Беларусі» (1911, № 35), «Думкі аб школьнай справе» (1912, № 11), «Пашкадуйце дзяцей» (1912, № 38), «Новы закон аб школах» (1913, № 22), А. Уласава «Што думае народ аб школах?» (1912, № 2). Яна настойліва дамагалася ўвядзення беларускай мовы ў цэрквах і касцёлах. В. Ластоўскі ў артыкуле «У справе мовы ў цэрквах» (1912, № 4) сцвярджаў, што навучыць простых людзей набажэнству можна толькі на роднай мове. Газета папулярызавала таксама беларускую нацыянальную культуру — тэатр, музыку, вусную народную творчасць. У артыкуле М. Арла «Аб нашай песні (Аб беларускай песні)» (1913, № 16—18, 20) і інш. сцвярджалася, што «ні па чым так нельга спазнаць... як жыве і чым жыве народ, як па яго песні».

Газета друкавалася двума шрыфтамі — кірыліцай і лацінкай, з дабаўленнем *ў/й* кароткага *(хмароў*, сhmагоі). Для ятаванага *о* і *о* пасля мяккіх зычных выкарыстоўвала знак *ё* і толькі спарадычна *іо*. Як раздзяляльны знак ужываўся апостраф. У двух графічных варыянтах «Наша ніва» выпускалася да кастрычніка 1912 г. За тое, каб «Наша ніва» друкавалася толькі кірыліцай, у дыскусіі выказаўся і Я. Купала.

Прыход у літаратуру вялікага атрада пісьменнікаў з розных мясцовасцей Беларусі, удзел карэспандэнтаў з розных яе куткоў стварылі магчымасць замацаваць як норму найбольш пашыраныя моўныя з'явы. Асноўным прынцыпам правапісу стаў фанетычны. Для іншамоўных слоў быў выбраны этымалагічны прынцып, і слова пісалася так, як яно гучала ў мове, з якой было запазычана. У адпаведнасці з асноўным прынцыпам правапісу ў газеце адлюстравана найважнейшая асаблівасць беларускай фанетыкі — аканне. Але пад уплывам гаворак з умераным аканнем у канчатках роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў і займеннікаў мужчынскага і ніякага роду пісалі *о*, калі націск быў на трэцім ад канца складзе, а калі на другім, то — *а (жывога народнага духа, нічога кепскаго не зраблю, прыгожаго пісьменства)*. Паралельна з канчаткам *-а* ў назоўніках ніякага роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку ўжывалася *-о (земства будзе даваць* і *земство адкрыло школу, слова ў жывой мове* і *слово ўтраціло значэнне)*. Як норма ненаціскны канчатак *-о* ўжываўся ў прошлым часе дзеясловаў у формах ніякага роду *(згарэло гумно, зазьзяло сонцэ)*. Устанавілася правіла захоўваць ненаціскное *о* ў запазычаных словах, уласных і геаграфічных назвах *(констытуцыя, революцыя, філологічны, Копернік, у Одэсі)* і ў каранях складаных слоў *(новароджэны, чорнасоценцы)*. Адступленне ад акання назіралася ў назоўніках мужчынскага роду ў родным склоне множнага ліку з канчаткам *-оў* незалежна ад націску *(бацькоў, паэтоў, студэнтоў, праектоў)*. Паслядоўна ў «Нашай ніве» захоўвалася ненаціскное *э* пасля шыпячых, *ц* і *р (дужэ, дурэнь, раніцэю, сэрцэ, хочэцца, чалавечэства)*. У канчатках дзеясловаў пасля шыпячых ужываліся *э* і *а*, што адлюстроўвала суіснаванне рыс паўночна-ўсходняй і паўднёва-заходняй гаворак *(Міхалка задрыжэў* і *маўчаў, пан закрычаў, задрыжаў)*.

Не выкрышталізавалася яшчэ адзіная норма ў перадачы злучэнняў галосных *іо /іа, ыо/ ыа* ў іншамоўных словах *(офіцыяльна, перыод, спэціальны)*. У аснову правапісу зычных быў пакладзены марфалагічны прынцып. Паслядоўна перадаваліся ў «Нашай ніве» характэрныя рысы беларускага кансанантызму: у якасці нормы замацоўваўся цвёрды *р (курыць, прыгожые, хварэць)*; чаргаванне *г — з, х — с, к — ц* перад галоснымі пярэдняга рада *(на беразе, на версе)*; пераход *л* і *в* пасля галоснага ў *ў (крыўда, малакроўе, шаўковы)*; адзначаны выпадкі, дзе *ў* ужывалася і не ў адпаведных умовах *(асоб падўладных, кантраляваць ўласнікоў, сваім ўласным)*; у запазычаных прозвішчах і назвах назіралася тэндэнцыя захоўваць *в (Владыслаў, Коссов, Марков)*; падваенне зычных пасля галоснага перад *j (галлё, німа абуцьця, сьвіньня)*; у творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з мяккай асновай зычныя не мелі *j (з гордасцю, с карысцю)*; характэрнае для паўднёва-заходняй групы гаворак непадваенне зычнага сустракалася рэдка і не ўтварала варыянтнай нормы *(гальё, збожа)*; намецілася тэндэнцыя не захоўваць падвоеных зычных у запазычаных словах *(інтэлігент, мільён, тэлеграма)*, але прынцып захоўваць аблічча слова павялічыў колькасць слоў з падвоенымі зычнымі *(группу, народная масса, прэсса)*; адзначалася наяўнасць прыстаўнога зычнага *в* перад пачатковым націскным галосным і прыстаўнога галоснага перад збегам зычных у пачатку слова *(вураднік, вучоны, аржаное каліва, ігрушы)*; афрыката *дж* на месцы старажытнага спалучэння *dj (адраджэньне, наладжэньне)*, зычныя *д* і *т* перад галоснымі пярэдняга рада ў


Наша Нива

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМІ

№ 4

**«Наша ніва». № 4. 1906.**

словах незапазычаных перадаваліся праз *дз'* і *ц'* *(мы радзім зрабіць, у голадзе, на мядзьведзю)*, а ў запазычаных — захоўваліся цвёрдымі *(акадэмія, ідэалогія, матэматыка, тэатр)*. Перад тымі ж галоснымі захоўваліся цвёрдымі і іншыя зычныя *(маніфэст, мэбля, прафэсароў, сыстэма)*. У запазычаных словах пакідалася мяккае *л'* *(парлямент, філёзаф)*.

У першыя гады існавання газеты (1906—07) асімілятыўнае змякчэнне не перадавалася *(жыццё, смеласць, жаданне)*, а потым стала заканамернай з'явай *(зьвер, павязьлі, сьведамасьць)*, хоць часам гэта правіла парушалася, мяккасць не адзначалася. У адпаведнасці з марфалагічным прынцыпам захоўваліся зычныя на стыку марфем і ў канцы слоў, гэта значыць асіміляцыя не перадавалася *(барацьба, грузчык, падрадчык, падвёз санкі)*. Пры ўжыванні прыназоўніка *з* і прыставак на *д* гэты прынцып вытрыманы непаслядоўна *(адказ* і *атказы, адтуль* і *аттуль, с хаты, с кім, з каганцом, з павету)*. Уступка фанетычнаму прынцыпу зроблена і для слоў з суфіксамі *-ств-* і *-ск-*, дзе ўтвараўся збег зычных. Намецілася тэндэнцыя не перадаваць у напісанні зычных *д, т, н* у збегу трох зычных у каранях слоў *(валасны, карысна, сумесны)*. Даволі паслядоўна вытрымана напісанне *і* пасля *ц* у словах іншамоўнага паходжання з суфіксамі *-ац-ыя, -ц-ыя*, што не адпавядала беларускаму вымаўленню *(агітацыя, нацыя, станцыя)*. Аналагічнае назіралася і ў перадачы марфалагічных асаблівасцей. Тут таксама ўзаемадзейнічалі з'явы абодвух масіваў беларускіх гаворак. Вузкія дыялектызмы ў «Нашай ніве» часам выступалі на правах другой, паралельнай нормы.

Назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з цвёрдай асновай у назоўным склоне множнага ліку мелі канчатак *-ы*, характэрны для паўночна-ўсходняга масіву гаворак *(дэпутаты, калівы, словы)*. Паўднёва-заходнім гаворкам уласцівы канчатак *-а* не пад націскам, пад націскам — *-э* *(целята, сляпцэ, каласке)*. Назоўнікі з мяккай асновай пад націскам мелі канчатак *-і* *(краі, раі)*, а не пад націскам — *-а /-я* *(народные чытаньня, свае вучэньня, ваенные змаганьня)*. Назоўнікі ўсіх трох родаў з цвёрдай асновай у месным склоне адзіночнага ліку не пад націскам мелі канчатак *-і*, пашыраны на большай частцы Беларусі, і канчатак *-е*, пашыраны ў цэнтральнай частцы рэспублікі *(к абароне, на сенакосе, на дарозі, у горадзі)*. Назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з асновай на зацвярдзелыя мелі канчатак *-ы*, а з мяккай асновай — *-і*, але сустракаліся і *-у /-ю* *(на полі, у сэрцы, у жыцці, у значэнню, у жыццю)*. У месным і давальным склонах адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду з асновай на *-к-* мелі канчатак *-ы*, які з'яўляецца нормай, і менш пашыраны *-э* *(на рэчцы, у крытыцы, аб трайцэ, на зямельцэ)*. Назоўнікі жаночага роду з мяккай асновай у творным склоне мелі канчатак *-ю* *(мудрасьцю, прагавітасцю)* і канчатак *-яй /-ей*, уласцівы мінска-маладзечанскім гаворкам *(перад сьмерцяй, з весьцяй)*. Творны склон назоўнікаў мужчынскага роду прадстаўлены пераважна канчаткам *-ом* пад націскам, *-ам /-ям* не пад націскам і *-ом /-эм, -ем* як вынік непаслядоўнай перадачы акання *(с князям, з загонам, коласом, выбіраюць князем, прагрэтае сонцэм)*. У паўночна-ўсходніх гаворках у творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў устанавілася паралельнае ўжыванне скарочанага канчатка *-ой /ей, -ай /-яй, ей* і поўнага *-ою /-ёю, -аю /-яю, -ей*, у паўднёва-заходніх — поўнага *(жывою работай, пад зямлёю, саваёю долю)*.

Разнабой у напісанні ненаціскных канчаткаў назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду з мяккай асновай у родным склоне множнага ліку абумоўлены не дыялектнымі асаблівасцямі, а непаслядоўнасцю перадачы акання. Пераважалі канчаткі *-оў, -ёў /-еў* *(лепшых паэтоў, сучасных паняцьцёў, у мове вучнёў)*, але сустракаюцца і *-аў /-яў* *(твораў, вучняў, пакаленняў)*. Для назоўнікаў жаночага і ніякага роду з цвёрдай асновай і жаночага роду з мяккай асновай у родным склоне множнага ліку ўстанавіліся 2 формы: без канчатка, пашыраная ў цэнтры, на захадзе і паўночным захадзе Беларусі, і з канчаткамі *-аў, -оў* (па аналогіі з мужчынскім родам), якая ўжываецца на ўсёй Беларусі з перавагай на ўсходзе і поўдні і колькасна саступае формам без канчаткаў *(думак, сяліб, песень, націй, папераў, раслінаў)*. Назоўнікі жаночага роду з асновай на *-сць-* у родным склоне пераважна мелі канчатак *-ей* *(абласцей, часцей)*. Адрозненні націскнога і ненаціскнога канчаткаў назіраліся ў назоўніках мужчынскага роду ў давальным і месным склонах множнага ліку — *-ом/-ём, -ох/-ёх*, уласцівыя гаворкам цэнтральнай Беларусі, і *-ам /-ям, -ах /-ях* *(дабрадзеям, гаспадаром, аб жыхарох, у мурох, на сэймах, у паглядах)*. Прыметнікі, займеннікі і парадкавыя лічэбнікі жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку ўжываліся з канчаткамі *-ай /-яй, -ой* і *-эй /-ей*, уласцівыя паўночна-ўсходняй гаворцы *(нашай справы, сіняй фарбы, старой скалы, чалавечай культуры)*.

Асабовы займеннік жаночага роду *яна*, прыналежныя — *мая, свая, твая*, указальны *тая* і лічэбнік *адна* ў родным, давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку ўжываліся з канчаткам *-эй /-ей*, уласцівым таксама паўночна-ўсходняй гаворцы *(с тэй дзяўчынай, па тэй дарозі, тваей ласкі, на аднэйназе)*.

Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў месным склоне адзіночнага ліку мелі ўласцівы паўночна-ўсходнім гаворкам канчатак *-ым /-ім* *(на чужым грунце, па дарагім сыне)*. Займеннікі не пад націскам мелі канчатак *-ым* *(аб гэтым пішуць)*, а пад націскам *-ым /-ім* і *-ом /-ём* *(ні па чом, у ём, у том лапці)*. Аднак назіралася тэндэнцыя выкарыстоўваць такі канчатак і не пад націскам.

Ужыванне двух канчаткаў у дзеясловах абвеснага ладу цяперашняга і будучага часу ў 3-й асобе адзіночнага ліку звязана з асаблівасцямі дзвюх асноўных груп гаворак *(дае, паедзе, выглядаіць* і *поіць, праўду гаворэ, мужык малоце)*. Асноўным канчаткам 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў абвеснага ладу быў *-ём, -ым /-ім*, радзей *-емо /-імо* *(ня думаем, прыпомнім, мы жывём, не дамо, просімо, паглядзімо)*.

Другая асоба множнага ліку загаднага ладу прадстаўлена двума канчаткамі — *-ыце /-іце*, які быў асноўным, і *-эця /еця* *(гаворыця, напішыце, нясіце* і *зрабеця, пішэця)*.

Устойлівай асаблівасцю было ўжыванне ў газеце дзеясловаў, дзеепрыслоўяў і назоўнікаў з суфіксам *-ыва- /-іва-*, характэрным для паўночна-ўсходніх гаворак *(паказывае, перапісываньне, перэдруковываючы)*. Дзеяслоў *быць* у цяперашнім часе ўжываўся толькі ў форме *ёсць*, якая ўласціва паўночна-ўсходнім гаворкам *(ёсць на сьвеці)*.

Асноўнымі формамі інфінітыва былі формы на *-ць, -ці, -чы* *(рабіць, сесьці, уцячы)*. Нормай стала выкарыстанне займеннікаў і прыслоўяў на *-сь, -сці* *(колісь, чагось, калісці, хтосці)*.

Развіццё сінтаксісу ішло ў кірунку ўскладнення канструкцыі. Звычайнымі былі ўстаўныя словы, сказы, прыдаткі, аднароднае паўтарэнне цэлых сказаў. Разам з тым прыкметны ўплыў рускага сінтаксісу. Асабліва гэта відаць пры выкарыстанні дзее-

прыметных зваротаў *(доктар Якубоўскі заведуючый лазарэтам; творчэскіе сілы прабудзіўшыхся да новага жыцьця народаў)*. Польскі ж уплыў прыкметны толькі пры ўжыванні некаторых склонаў: назоўнага замест роднага *(пазычка грошы)*, назоўнага замест меснага *(павінен дбаць аб грошы)* і канструкцый з прыназоўнікам і без яго *(вучыць ў чужой мове, а 5 гадзіне)*.

Газета садзейнічала інтэнсіўнаму ўзаемадзеянню пісьмовай і жывой народнай мовы, бо закранала хвалюючыя і надзённыя пытанні жыцця свайго часу і была чуйным рэгістратарам новых слоў і словазлучэнняў, што ўзнікалі ў сувязі з развіццём прамысловасці, вынаходніцтва, гандлю, ваеннай *(авіятар, ваенна-акружны, ваенна-палявы, цэмент)* і эканамічнай дзейнасці *(камерцыя, прадукцыя, страхаванне, субсідыя, эксперт)*. Новымі словамі папоўнілася група назоўнікаў, што абазначала асоб па прафесіі, роду заняткаў, схільнасцях,— з суфіксамі *-нік (будаўнік, крамнік, настаўнік)*, *-ец, -ца (дзялец, пісец, прадавец)*, *-ар /-яр (арганізатар, інспектар, рэктар)*, *-ач (слухач, чытач)*, *-іст /а, -ыст /а (гімназіст, публіцыст, эканаміст)*, *-энт /-ант (дэманстрант, карэспандэнт, эмігрант)*.

Неалагізмы ўтвараліся як шляхам спалучэння ўласнабеларускіх і запазычаных словаўтваральных элементаў, так і шляхам калькавання рускіх і польскіх слоў *(воблік, заява, прыгатавіцельны клас, севалка, узрост)*. Безумоўна, не ўсе неалагізмы з газеты замацаваліся ў мове. Некаторыя мелі аказіянальны характар і выйшлі з ужытку. Частка ж неалагізмаў змяніла сваё аблічча ў адпаведнасці з правіламі словаўтварэння ў беларускай мове *(земляробны — земляробчы, творства — творчасць, усясветны — сусветны, абставы — абставіны, прападак — выпадак)*. Новыя лексемы ў сваю чаргу траплялі са старонак газеты ў гутарковую мову народа. Акрамя таго, карэспандэнты і пісьменнікі рабілі здабыткам шырокіх мас разам з беларускай лексікай запазычанні, якія праз газету пашыраліся ў гутарковай мове. З рускай мовы былі ўзяты словы *адстаўка, вучылішча, вучэбнік, вучыцель, прадсядацель*, з польскай прыйшлі словы з суфіксамі *-унак (гатунак, рахунак)*, *-ня (кнігарня, майстэрня)*, *-ваць (байкатаваць, дэкламаваць)*, *-н- (клясычны, тэхнічны, выключны)*, *-ов- (крышталёвы, службовы)*. Часта паралельна ўжываліся іншамоўнае і беларускае словы, адно з якіх з'яўлялася перакладам другога і пісалася ў дужках: *кампраміс* (змова, згода), *крэдыт* (пазычка), *правіант* (харчы), *хаўрус* (кружок), *цытрына* (лімон). Шырока прадстаўлены ў «Нашай ніве» дыялектызмы з розных мясцовасцей Беларусі — з заходніх гаворак *(газа, кадук, рыхтык, шматок)*, з усходніх *(відзець, вязьмо, кратаць)*, з паўночных *(вогнік, пагаліцца, пяяць)*, з цэнтральных *(карабаціць, натура, стус)*.

У газеце багата прадстаўлена эмацыянальная лексіка *(валацуга, лайдачуга, ляпайла)*, крыніцай якой была гутарковая мова. Сярод гэтай групы вылучаецца памяншальна-ласкальная лексіка *(бэлечка, ваконца, валаконца, валасок)*. У абстрактнай лексіцы прадуктыўнымі былі ўтварэнні з суфіксамі *-асць /-осць (вартасць, годнасць, кемнасць, папулярнасць)*, *-ств- /-цтв- (адвакацтва, дэпутацтва, шавецтва)*, *-нн-е (вызваленне, лятанне, тлумачэнне)*, *-цц-е (багацце)*, *-цыя (агітацыя)*, *-ыя (амністыя)*; *-ізн-а (бялізна)*, *-ойл-я (дарагойля)*, *-цтв-а (лайдацтва)*, *-ізм (нацыяналізм)* *-от-а (цемнота)*. Паколькі сацыяльна-палітычныя і культурна-нацыянальныя пытанні былі ў цэнтры ўвагі грамадскасці і займалі асноўнае месца ў друку, слоўнікавы фонд мовы «Нашай нівы» характарызуецца высокай ступенню развіцця лексікі, якая адлюстроўвала грамадска-палітычныя працэсы *(адраджэнне, рэфармацыя, дзяржаўнасць)*, класавую барацьбу *(забастоўка, каланізацыя)*, наяўнасць сацыяльных партый і груп *(кадэт, клас, чарнасоценец)*, характарызавала адміністрацыйны апарат, яго ўстановы *(адміністрацыя, земства, міністэрства, правіцельства)*, пасады *(прэзідэнт, старшыня)*, кіраўніцтва *(амністыя, скасаванне)*, дакументы і дзелавыя паперы *(абвестка, патэнт, указ, рапарт)*.

Аднак у газеце сціпла прадстаўлена спецыяльная тэрміналогія канкрэтных галін навукі. Напрыклад, з мовазнаўчай тэрміналогіі засведчаны толькі тэрміны: *гаворка, мова, зварот* (моўны), *тэрмін, русіцызм*.

На старонках газеты зараджаўся навуковы стыль беларускай мовы. Яна папулярызавала прыродазнаўчыя, біялагічныя, медыцынскія і эканамічныя веды. Змяшчэнне разнастайных паведамленняў, аб'яў, праграм, справаздач, адозваў, кансультацый уводзіла ва ўжытак словы, словазлучэнні, канструкцыі, спецыфічныя для афіцыйна-дзелавога стылю: *гранічныя суды, копные суды, пэнсіон* (штомесячная дапамога), *абавязываючай пастановай камэнданта*.

Непаслядоўнасць газеты ў выкарыстанні лексічных сродкаў тлумачыцца адсутнасцю граматыкі, спецыяльных лексікаграфічных і лексікалагічных прац. Гэта праявілася ў выкарыстанні польскіх і рускіх слоў для абазначэння аднаго і таго паняцця, а часам і слоў розных беларускіх дыялектаў: *выдатак — расход, заработкі — заробкі, ліст — пісьмо, маёнтак — іменне, паветра — воздух, справа — дзела.*

«Наша ніва» адыграла выключную ролю ў гісторыі беларускай літаратуры і літаратурнай мовы. Рашаючым у фарміраванні беларускай літаратурнай мовы быў дзесяцігадовы «нашаніўскі» перыяд. Беларускае слова атрымала права на легальнае пісьмовае бытаванне. За гэты час склаліся асноўныя правапісныя і граматычныя нормы і словаўтваральныя тыпы.

*Літ.:* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Развіццё лексічнай сістэмы беларускай мовы ў XIX — пачатку XX ст. // Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970.

*Г. К. Усціновіч.*

## «НАША СЛОВА»

«Наша слова» — газета рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (ТБМ). Выдаецца з сакавіка 1990 г. (першыя 10 нумароў — як штомесячны бюлетэнь). З 1991 г.— чатырохпалосны штотыднёвік, з 1992 г.— на 8 палосах. Першы рэдактар — Н. Гілевіч (на грамадскіх пачатках), з 1991 г.— Э. В. Ялугін. У складзе рэдакцыйнай калегіі вядомыя мовазнаўцы, дзеячы беларускай культуры і літаратуры: Янка Брыль, У. Дамашэвіч, А. Клышка, Г. Цыхун і іншыя. Галоўная задача газеты — садзейнічаць згуртаванню ўсіх прагрэсіўных сіл дзеля нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі. У праграмным рэдакцыйным артыкуле вызначана мэта выдання: «...Працаваць на ўздым аўтарытэту і прэстыжу беларускай мовы, на выхаванне павагі і любові да яе, на тое, каб яна паўнапраўна, свабодна і смела гучала на зямлі яе вялікага стваральніка — беларускага народа» (1990. № 1). Дэвіз газеты: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі» (Ф. Багушэвіч).

Моўную палітыку на Беларусі газета ўвязвае з пытаннем пра пераход на навучанне па-беларуску дзяцей, школьнікаў, студэнтаў, пра нацыянальныя выкладчыцкія кадры. Непакой за роднае слова выказваюць на яе старонках пісьменнікі, вучоныя, настаўнікі, студэнты, члены беларускага ўрада, ваенныя і іншыя. Прынцыповая пазіцыя газеты ў абарону мовы ў значнай ступені садзейнічала таму, што беларускай мове быў нададзены статус дзяржаўнай.

Шырокую чытацкую дыскусію разгарнула «Наша слова» ў сувязі з неадназначным стаўленнем носьбітаў мовы да вынікаў правапіснай рэформы 1933 года. Выказванні па гэтай праблеме аўтарытэтных спецыялістаў, майстроў слова і неабыякавых чытачоў газеты адкрываюць той шлях, па якім павінна адбывацца рэфармаванне сучаснага правапісу.

Шмат у «Нашым слове» матэрыялаў пра культуру маўлення (цікавыя ў гэтым плане «Матэрыялы да трасянка-беларускага слоўніка» С. Дубаўца — 1990, № 2), тапаніміку, этыма-

логію слова, пра розныя гаворкі Беларусі, развіццё беларусістыкі ў рэспубліцы і за мяжой. Упершыню ў перыёдыцы газета друкуе беларуска-іншамоўныя размоўнікі, вялікія падборкі фразеалагізмаў малавядомай навуковай тэрміналогіі. У 1992 г. ўзнікла спецыяльная старонка для тых, хто самастойна вывучае беларускую мову, даюцца ўзоры літаратурнага беларускага вымаўлення.

Пастаяннымі з'яўляюцца публікацыі газеты пра выдавецкую дзейнасць, выпуск тэрміналагічных і агульных беларускіх слоўнікаў, падручнікаў, навучальных дапаможнікаў.

Газета асвятляе дзейнасць суполак ТБМ, пастаянна інфармуе пра культурнае і эканамічнае жыццё беларускага замежжа, анатуе беларускую эмігранцкую перыёдыку (у прыватнасці, амерыканскую: «Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва», газеты «Беларус» і «Беларускі голас», часопісы «Полацак» і «Беларуская думка») і іншыя выданні.

*Л. Мсціслаўскі, Л. М. Малініна.*

## НЕАЛАГІЗМЫ

Неалагізмы (ад грэч. néos новы і lógos слова, паняцце) — словы або словазлучэнні, якія з'яўляюцца ў мове для называння новых прадметаў, з'яў ці для замены старых назваў прадметаў ці з'яў. Напрыклад: *газамабіль* — 'аўтамабіль, які працуе на газавым паліве'; *дарніт* — 'сінтэтычны матэрыял, які выкарыстоўваюць для пракладкі аўтамабільных дарог'; *ювеналогія* — 'навука пра маладосць, пра тое, як прадоўжыць чалавеку самы актыўны перыяд яго жыцця'; *крыптазаалогія* — 'галіна навукі, якая вывучае таямніцы жывёльнага свету'.

Пакуль такія словы і словазлучэнні малавядомыя, яшчэ захоўваюць свежасць і навізну, яны знаходзяцца ў пасіўным складзе лексікі. Калі ж яны становяцца агульнавядомымі, прывычнымі, то пераходзяць у актыўны слоўнік і перастаюць быць неалагізмамі. Так, напрыклад, слова *навучэнец* у 1950-я гады было, неалагізмам, а зараз яно ўжо ў актыўным слоўніку. Словы *касманаўт, касманаўтыка, касмадром* былі неалагізмамі вельмі нядоўга, паколькі амаль адразу ж пасля свайго ўзнікнення сталі агульнавядомымі (гл. **Актыўная і пасіўная лексіка**).

Кожная новая эпоха нараджае свае словы. Асабліва многа неалагізмаў узнікла пасля 1917 года: *сельсавет, наркамат, нарком, лясгас, леспрамгас, калгас, камсамол, трактар, завочнік, новабудоўля, пяцігодка, суботнік, касілка, перадавік* і інш. Большасць такіх слоў ужо трывала ўвайшла ў нашу мову. Некаторыя з іх, пабыўшы ў актыўным слоўніку, перайшлі ў пасіўны запас, сталі ўстарэлымі: *губком, валвыканком, наркамат, нарком, МТС, нэп, рабфак, лікбез* і інш.

Задавальненне патрэб у сродках намінацыі ішло (і ідзе) пераважна за кошт уласнага матэрыялу па ўласных словаўтваральных мадэлях, г. зн. уласна беларусізмаў і з уласнага матэрыялу на ўзор іншамоўных слоў, г. зн. кáлек і паўкáлек.

Сярод уласна беларусізмаў, створаных у той час, шэраг мовазнаўчых тэрмінаў. Б. Тарашкевіч у сваёй «Беларускай граматыцы для школ» (1918) увёў новыя назвы часцін мовы і іншых лінгвістычных паняццяў *(імя, прымета, чысло, займя, дзеяслоў, прыслоўе, прыймя, злуч, кліч)*. Адны з тэрмінаў прыжыліся ў беларускай мове *(дзеяслоў, прыслоўе, абвесны лад* і інш.), другія былі відазменены або заменены іншымі *(назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, прыназоўнік, злучнік, выклічнік* і інш.). У свой чáс уласнабеларускімі неалагізмамі былі назвы гарадоў, пасёлкаў: *Асінторф, Наваполацк, Новалукомль, Салігорск, Светлагорск* і інш.

У беларускай мове сярод неалагізмаў больш кáлек і паўкáлек, чым уласна беларусізмаў. Гэта тлумачыцца тым, што ў савецкі час папаўненне слоўнікавага складу мовы адбывалася ў працэсе цеснага ўзаемадзеяння з блізкароднаснымі мовамі, у першую чаргу з рускай. Вось некаторыя з такіх шматлікіх былых неалагізмаў: *звышгукавы* (сверхзвуковой), *узбуйненне* (укрупнение), *суіснаваць* (сосуществовать), *звышдзяржава* (сверхгосударство), *усюдыход* (вездеход), *іншапланецянін* (инопланетянин).

Неалагізмы могуць узнікаць і ў выніку запазычвання. Не так даўно да нас прыйшлі словы *біятлон, дызайн, дэльтаплан, матабол, хобі* і інш., якія ў наш час ужо перасталі быць неалагізмамі. Сярод сучасных запазычаных неалагізмаў — *трыятлон* (новы від спорту), *кансэнсус, спонсар, менеджэр, брыфінг, тэлефакс.*

Новае слова можа ўзнікнуць і для абазначэння вядомага прадмета, з'явы, якія ўжо маюць сваю назву. У такім выпадку ў мове нейкі час існуюць паралельна два ці некалькі слоў-дублетаў. Новае слова-назва паступова выцясняе ранейшае, становіцца агульнаўжывальным, прывычным і пераходзіць у актыўны слоўнік. Ранейшае слова паступова становіцца менш ужывальным, архаізуецца і пераходзіць у пасіўны склад лексікі. Такі шлях у свой час прайшлі словы *цытрына — лімон, выдаўнічы — выдавецкі, кардон — мяжа, граніца, бульбакоп — бульбакапалка, лятун — лётчык* і інш. У наш час з'явілася слова *святар*, якое суіснуе з агульнавядомым *свяшчэннік*, побач са словам *выстаўка* стала распаўсюджвацца *выстáва*, са словам *чыпсы — бульбяныя лустачкі.* Час пакажа, якія з іх застануцца ва ўжытку.

Неалагізмы падзяляюцца на лексічныя і семантычныя. Л е к с і ч н ы я неалагізмы — гэта новыя словы, якія выступаюць у мове як назвы прадметаў, з'яў. Усе словы, пра якія гаварылася вышэй,— лексічныя неалагізмы. С е м а н т ы ч н ы я неалагізмы — гэта новыя значэнні вядомых слоў. Яны не такія частыя ў мове. Напрыклад, не так даўно слова *дыпламат* набыло пераноснае значэнне — 'плоскі партфель-чамаданчык', *раунд* — значэнне 'адзін з этапаў перагавораў, якія працягваюцца з перапынкамі'. Аднак гэтыя ў свой час семантычныя неалагізмы сталі шырока вядомымі, агульнаўжывальнымі і таму ўжо знаходзяцца ў актыўным слоўніку. Навізной у наш час вызначаюцца яшчэ словы *банк* у значэнні 'сукупнасць, змесціва чаго-небудзь' *(банк новых ідэй), дыялог* у значэнні 'кантакты, перагаворы паміж краінамі, грамадскімі дзеячамі і г. д.' *(дыялог паміж лідэрамі партый)*.

Неалагізмы ствараюцца пры дапамозе вядомых словаўтваральных сродкаў мовы (прыставак, суфіксаў і г. д.) і паводле вядомых прадуктыўных мадэлей. Так, на ўзор слова *прызямліцца* ўзнікла слова *прываднíцца* — 'спусціцца на водную паверхню; *асцылограф — тамограф; аэрадром — касмадром, ракетадром; самалёт — электралёт.* Назвы мінералаў часта ўтвараюцца ад прозвішча нейкага вядомага чалавека, вучонага або ад назвы мясціны, дзе мінерал быў знойдзены, пры дапамозе суфікса *-іт: гагарыніт* (Гагарын), *сцішавіт* (Сцішаў), *балхашыт* (Балхаш), *беламарыт* (Белае мора), *ерэваніт* (Ерэван), *чараіт* (Чара), *танзаніт* (Танзанія).

Неалагізмы рэальна існуюць у мове. Яны выступаюць як узнаўляльныя адзінкі, г. зн. мы іх ужываем у вуснай і пісьмовай мове як гатовыя словы. Такія рэальныя (узуальныя) неалагізмы неабходна адрозніваць ад а к а з і я н а л і з м а ў — слоў, створаных пісьменнікамі, грамадскімі дзеячамі ў якасці выразных сродкаў толькі ў пэўным кантэксце. Іх яшчэ называюць аказіянальнымі словамі, аўтарскімі неалагізмамі, аўтарскімі наватворамі, індывідуальна-стылістычнымі ўтварэннямі. Вось некаторыя аказіяналізмы, створаныя пісьменнікамі ў 20-я гады: *песніць, узвеснены* (У. Хадыка); *ускоўдрыць, наземіцца, пайднёвавейнасць, арфазвоннасць, заістужыць, распарасоніцца* (У. Дубоўка); *раззірацъ, доўгацярплівасць* (П. Галавач); *камсамоліцца, русаліцца* (З. Бядуля).

Сучасныя беларускія пісьменнікі таксама ствараюць аказіяналізмы. Такія словы ўжываюцца або для больш вобразнага выражэння паняццяў, або для стварэння пэўных мастацкіх эфектаў і гульні слоў: ***Блукаюць грыбазбіры**...* (П. Панчан-

ка); *Верхаводка,* ***абліскавічаная*** *бліскавіцай,* ***агромленая*** *громам кругарогім* (М. Танк); ***Ад'юбілеіш*** *— памаладзееш...* (В. Вітка); *Калышацца вагон* ***чаёва, вечарова...*** (У. Някляеў).

Аказіяналізмы і неалагізмы зблізкае тое, што яны ствараюцца як новыя, незвычайныя словы. Але яны істотна адрозніваюцца. Неалагізмы — агульнамоўныя адзінкі, а аказіяналізмы цесна звязаны з пэўным кантэкстам. Часам яны бываюць незразумелыя па-за сваім кантэкстам. Да таго ж аказіяналізмы не валодаюць асноўнай асаблівасцю адзінкі мовы — узнаўляльнасцю, іх мы разумеем, але імі, як правіла, не карыстаемся. Гэта факты маўлення, а не факты мовы.

Некаторыя аказіяналізмы могуць станавіцца фактамі мовы, пераходзячы ў катэгорыю агульнаўжывальных, але пры гэтым яны трацяць сваю навізну, незвычайнасць.

*Літ.:* Баханькоў А. Я. Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд: сацыялінгв. нарыс. Мн., 1982; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Шакун Л. М. Словаўтварэнне. Мн., 1978; Казейка І. П. Паняцце неалагізма ў сучасным мовазнаўстве // Бел. лінгвістыка. Мн., 1988. Вып. 34; Котелова Н. З. Первый опыт лексикографического описания русских неологизмов // Новые слова и словари новых слов. Л., 1978.

*М. Ц. Кавалёва.*

## НЕКРАШЭВІЧ СЦЯПАН МІХАЙЛАВІЧ



Беларускі мовазнавец С. М. Некрашэвіч нарадзіўся 8 мая 1883 г. ў в. Данілаўка Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння Панявежскай настаўніцкай семінарыі (1908) настаўнічаў. Скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут (1913). З 1918 загадваў беларускай секцыяй пры губернскім аддзеле народнай асветы г. Адэса, вёў арганізацыйную і культурна-масавую работу сярод дэмабілізаваных беларусаў-салдат і беларусаў-бежанцаў. Дзякуючы яго намаганням да пачатку 1918 навучальнага года ў Адэсе было адкрыта 30 пачатковых беларускіх школ і беларуская гімназія. Вучыўся ў Адэскім вышэйшым міжнародным інстытуце (скончыў 2 курсы). З 1920 г. ў Мінску, дзе працуе ў апараце Наркамасветы БССР, займаючы розныя кіраўнічыя пасады: загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела, інспектара навуковых устаноў, старшыні Навукова-тэрміналагічнай камісіі, намесніка старшыні Галоўпрафасветы і інш. С. М. Некрашэвіч прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі Інбелкульта і ў 1922—25 гг. узначальваў яго. У 1926—28 гг. ён старшыня аддзела гуманітарных навук, кіраўнік класа мовы і літаратуры, старшыня слоўнікавай камісіі Інбелкульта. Арганізацыйную і навуковую дзейнасць спалучаў з выкладчыцкай у Белдзяржуніверсітэце: у 1923—25 гг. вёў беларусазнаўства на медыцынскім факультэце, а з 1927 г. чытаў курс беларускай дыялекталогіі на педагагічным факультэце. У пачатку 1925 г. быў камандзіраваны ў Навукова-даследчы інстытут мовы і літаратуры пры Ленінградскім універсітэце, дзе да ліпеня 1926 г. займаўся беларускай мовай пад кіраўніцтвам акад. Я. Ф. Карскага.

Пастановай СНК БССР ад 26 снежня 1928 г. быў зацверджаны акадэмікам і віцэ-прэзідэнтам АН БССР. Адначасова (з 1929) з'яўляўся дырэктарам акадэмічнага Інстытута мовазнаўства, старшынёй камісій правапіснай і па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы, а з 1 студзеня 1928 г. і старшынёй Галоўнавукі пры Наркамасветы БССР. На VIII (1927) і IX (1929) Усебеларускіх з'ездах Саветаў выбіраўся членам ЦВК БССР. 21 ліпеня 1930 г. арыштаваны і высланы ў г. Сарапул Удмурцкай АССР. На зыходзе 1937 г. арыштаваны паўторна, прывезены ў Мінск і 20 снежня расстраляны.

Асноўны кірунак навуковай дзейнасці С. М. Некрашэвіча — лексікаграфічны. Як старшыня Навукова-тэрміналагічнай камісіі ён непасрэдна ўдзельнічаў у апрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі па розных галінах ведаў. Апрацаваная і зацверджаная на пасяджэннях камісіі Інбелкульта беларуская навуковая тэрміналогія спачатку публікавалася ў «Вестнике Народного Комиссариата Просвещения», а з 1922 г. выдавалася асобнымі выпускамі.

У лютым 1925 г. Інбелкульт прыняў рашэнне ўкласці слоўнік жывой беларускай мовы. Была створана спецыяльная камісія, якую ўзначаліў С. М. Некрашэвіч. У хуткім часе ён вызначыў і навукова абгрунтаваў тып слоўніка як тлумачальны, крыніцы лексічнага матэрыялу, метады збірання і структуру слоўнікавых артыкулаў. Слоўнік павінен быў абнародаваць з навуковымі каментарыямі лексічныя багацці беларускай мовы з усёй этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі ад пачатку 19 ст. да апошняга часу. Крыніцамі лексічнага матэрыялу былі вызначаны народная мова, лепшыя фальклорныя запісы, літаратурная мова і лексікаграфічныя працы. Да канца 1927 г. картатэка ўжо налічвала больш за 400 000 адзінак. 20 лістапада 1929 г. быў зацверджаны канчатковы праект слоўніка, і камісія прыступіла да непасрэднай распрацоўкі слоўнікавых артыкулаў, аднак у сувязі з арыштам С. М. Некрашэвіча і іншых выканаўцаў работа над слоўнікам жывой беларускай мовы спынілася. Багатая картатэка і апрацаваныя слоўнікавыя артыкулы загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Улічваючы вялікую патрэбу ў лексікаграфічных даведніках практычнага тыпу (слоўнік жывой беларускай мовы меркавалася выдаць толькі ў канцы 30-х гадоў), С. М. Некрашэвіч і М. Я. Байкоў па даручэнні Інбелкульта ўзяліся за падрыхтоўку перакладных слоўнікаў. У 1925 г. яны выдалі «Беларуска-расійскі слоўнік», а ў 1928 — «Расійска-беларускі слоўнік». Працы адыгралі вялікую ролю ў фарміраванні беларускай літаратурнай мовы.

С. М. Некрашэвіч шмат займаўся і правапісам. У 1920 г. ў друку з'явіўся яго артыкул «Правапіс спрэчных дзеяслоўных форм». На Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (1926) вучоны выступіў са спецыяльным дакладам. Паколькі прынятыя канферэнцыяй пастановы не былі праведзены ў жыццё, 1 кастрычніка 1927 г. была створана новая Правапісная камісія на чале з С. М. Некрашэвічам. Праз два гады яна прыняла Праект беларускага правапісу, які быў разасланы для абмеркавання. У 1933 г. перапрацаваны Праект быў перавыдадзены, і на яго аснове СНК БССР прыняў вядомую пастанову «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», якая ўпершыню афіцыйна ўзаконіла пэўныя правапісныя і граматычныя нормы беларускай літаратурнай мовы.

Аб'ектам навуковых інтарэсаў С. М. Некрашэвіча была і беларуская дыялекталогія. Так, разам з П. А. Бузуком ён склаў «Праграму для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак і гаворак, пераходных да суседніх моваў» (1927). У ёй налічвалася 157 пытанняў па фанетыцы, марфалогіі, сінтаксісе і націску, даваліся каштоўныя метадычныя парады. Сабраны з дапамогай Праграмы дыялектны матэрыял потым выкарыстаў

П. А. Бузук пры стварэнні наватарскай на той час працы «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі» (1928). Праграмныя распрацоўкі С. М. Некрашэвіча ў галіне лексікаграфіі залажылі тэарэтычныя асновы і прынцыпы стварэння дыялектных слоўнікаў беларускай мовы.

С. М. Некрашэвіч даследаваў і гісторыю беларускай мовы. У працы «Мова кнігі Касьяна Рымляніна Ераміты «О уставах манастирских» (1928) ён упершыню прааналізаваў гэты рукапісны помнік з графічнага, фанетычнага і граматычнага бакоў. Доўга працаваў С. М. Некрашэвіч і над другой сваёй працай па гісторыі беларускай мовы — «Васіль Цяпінскі. Яго прадмова, пераклад евангелія на беларускую мову і мова перакладу», якая, аднак, не была надрукавана.

С. М. Некрашэвіч уважліва сачыў за навуковымі працамі па беларускім мовазнаўстве, часта выступаў у друку з грунтоўнымі рэцэнзіямі на іх. Актуальныя пытанні развіцця беларускай мовы і культуры ён узнімаў у сваіх выступленнях на сесіях ЦВК і з'ездах КП(б)Б.

*Тв.*: Становішча культурна-асветных устаноў на Беларусі пры НЭПе // Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культ. і рэв. руху. Мн., 1924; Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы // Полымя. 1925. № 5; Аб пашырэнні акання на чужаземныя словы // Полымя. 1926. № 5; Сучасны стан вывучэння беларускай мовы // Працы Акадэмічнай Канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мн., 1927; Да пытання аб рэформе нашага правапісу // Тамсама; Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёна: (Кароткі этнагр.-лінгв. нарыс). Мн., 1929.

*Літ.*: Германовіч І. К. Аб навуковай дзейнасці Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча // Весн. БДУ. Сер. 4. 1972. № 3. *І. К. Германовіч.*

## НОРМЫ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Моўныя нормы — гэта замацаваныя ў маўленчай практыцы правілы вымаўлення, словаўжывання, пабудовы сказаў і тэкстаў. Яны адлюстроўваюць грамадска-эстэтычныя погляды на слова і ўнутраныя заканамернасці моўнай сістэмы ў яе развіцці.

Надзейнае функцыяніраванне літаратурнай мовы забяспечваюць разнастайныя нормы: арфаэпічныя, акцэнталагічныя, словаўтваральныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, фразеалагічныя, лексічныя і стылістычныя. Правільнасць пісьмовай формы рэгулююць арфаграфічныя, пунктуацыйныя нормы (яны найбольш поўна вывучаюцца ў сярэдняй школе).

Арфаэпічныя нормы патрабуюць ад усіх носьбітаў мовы адзінага вымаўлення гукаў, гуказлучэнняў у словах і спалучэннях слоў. Правільнае літаратурнае вымаўленне — істотная адзнака культуры мовы і культуры чалавека ўвогуле. Парушэнне арфаэпічных норм звычайна тлумачыцца ўплывам дыялектных рыс роднай гаворкі, зблытваннем асаблівасцей беларускага і рускага літаратурнага маўлення і ўплывам арфаграфіі. Арфаэпічныя нормы прадугледжваюць: правільнае вымаўленне галосных, напрыклад: злучнік і часціца [і] пасля слова на галосны вымаўляецца як [й]; галосны [у] не пад націскам вымаўляецца выразна; галосныя [о], [э], [а] не пад націскам вымаўляюцца як гук [а] і г. д.; правільнае вымаўленне зычных, напрыклад: гук [р] у беларускай мове толькі цвёрды; гук [дж] — цвёрдая афрыката, адзін непадзельны гук; гук [дз'] — мяккая афрыката, адзін непадзельны гук і г. д.; правільнае вымаўленне спалучэнняў зычных, напрыклад: спалучэнні [дч], [тч] вымаўляюцца як падоўжаны гук [чч]; спалучэнні [шс], [жс] вымаўляюцца як падоўжаны мяккі [с']; спалучэнні [дс], [тс], [чс], [кс] вымаўляюцца як [ц]: *завацкі* (завад-ск-і), *даманавіцкі* (даманавіч-ск-і), *беластоцкі* (беласток-ск-і) і г. д.; правільнае вымаўленне асобных граматычных форм, напрыклад: літаратурнае вымаўленне канчаткаў *-ага, -ога, -яга* ў родным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў, дзеепрыметнікаў адпавядае напісанню; канчаткі *-і, -ы* ў назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду прыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў, займеннікаў і дзеепрыметнікаў вымаўляюцца выразна і пад націскам і не пад націскам, і інш.

Акцэнталагічныя нормы рэгулююць месца размяшчэння націску (гл. **Націск**) у словах (напрыклад, трэба *кварта́л*, нельга *ква́ртал*). Цяжкасці ў засваенні акцэнталагічных норм звязаны з тым, што ў беларускай мове націск свабодны, ці разнамесны (*све́тлы, святле́йшы, цераб́ілка, цэментасхо́вішча*). Побач з літаратурнай нормай сустракаюцца акцэнтныя варыянты, якія існуюць паралельна з нарматыўнымі (*нада́лей — надале́й*), і тыя, якія выходзяць за рамкі нормы (*жы́хар — жыха́р, ця́жар — цяжа́р*), што звязана з пранікненнем у літаратурную мову дыялектных слоў. Націск маюць толькі паўназначныя словы, непаўназначныя ж у якасці націскнога склада прымыкаюць да папярэдняга слова (энклітыкі) або да наступнага (праклітыкі). Нормы націску грунтоўна распрацаваны ў «Беларускай граматыцы» (ч. 1, 1985) у адпаведнасці з асаблівасцямі кожнай часціны мовы.

Словаўтваральныя нормы ахоўваюць найбольш трывалыя, традыцыйныя ў беларускай літаратурнай мове словаўтваральныя тыпы — схемы пабудовы слоў пэўнай часціны мовы, якія супадаюць у словаўтваральных адносінах. Напрыклад, ва ўтварэнні аддзеяслоўных назоўнікаў, што абазначаюць асоб па дзеянні, названым утваральным словам, актыўным з'яўляецца суфікс *-льнік* (*збіраць — збіральнік, ствараць — стваральнік*), таму намінацыі тыпу *збірацель, стварацель* — адхіленне ад нормы. Яшчэ: нарматыўнымі лічацца прыметнікі са значэннем прыналежнасці, утвораныя ад назоўнікаў жаночага роду пры дапамозе суфікса *-ін (-ын): бабулін, сястрын, Арынін.* Але ўтварэнні з гэтым суфіксам ад назоўнікаў мужчынскага роду (*Колін, Пецін, Віцін, бацькін*) лічацца парушэннем нормы. Такім чынам, словаўтваральныя нормы рэгулююць выбар марфем, іх размяшчэнне і спалучэнне ў складзе новага слова.

Марфалагічныя нормы замацоўваюць правільнае выкарыстанне моўных сродкаў паводле іх прыналежнасці да пэўных зменных часцін мовы. Цяжкасці ў засваенні марфалагічных норм звязаны з наяўнасцю ў мове варыянтных форм, многія з якіх набылі функцыянальную нагрузку, сталі важным стылістычным рэсурсам мовы. Няўстойлівасць марфалагічных норм тлумачыцца ўздзеяннем дыялектаў (напрыклад, выкарыстанне парнага ліку: *дзве сасне, дзве баразне*), асаблівасцю мовы-крыніцы, з якой запазычваюцца словы, сітуацыяй двухмоўя (часта пад уплывам рускай мовы словы *боль, мазоль, шынель* і інш. ўжываюцца ў жаночым родзе), а таксама фактарамі ўнутранага парадку. Напрыклад, варыянтнасць у граматычным родзе можа ўзнікаць у выніку супярэчнасці паміж формай і зместам слова. Так, словы *хароміна, даміна* і да т. п. знешне маюць фармальныя паказчыкі жаночага роду, аднак матываваны яны назоўнікамі мужчынскага роду (*хорам, дом*). Таму ваганні тыпу *раскошны (раскошная) хароміна, шыкоўны (шыкоўная) даміна* — вынік неадпаведнасці паміж марфалагічным абліччам і словаўтваральнай матываванасцю граматычнага роду.

Адхіленні ад нормы назіраюцца практычна сярод усіх зменных часцін мовы. Сярод назоўнікаў — ва ўжыванні слоў з неўласцівымі формамі роду (няправільна: *залатая медаль, цёплая футра, свойскі гусь, чужая сабака*), ліку (*праменні, карэнні, рэхі, глупствы*) і інш.; сярод прыметнікаў — ва ўтварэнні ступеняў параўнання (*вышэй мяне, старэй мяне, самыя найцудоўнейшыя*) і інш.; сярод дзеясловаў — ва ўжыванні складанай формы прошлага часу (*яна было пайшла, яны было вярнуліся*; у беларускай літаратурнай мове ў гэтым выпадку дапаможны дзеяслоў *быць* павінен мець тыя самыя формы роду і ліку, што і асноўны).

Сінтаксічныя нормы рэгулююць граматычную сувязь слоў у разнастайных прыназоўнікавых і беспрыназоўнікавых канструкцыях (мадэлях), забяспечваюць правільныя формы кіравання і дапасавання. У сінтаксісе, як і ў марфалогіі, даволі пашырана варыянтнасць спосабаў выражэння (дапускаецца: *кантроль дзейнасці адміністрацыі, кантроль за дзейнасцю адміністрацыі* і *кантроль над дзейнасцю адміністрацыі; водзыў на аўтарэферат* і *водзыў аб аўтарэфераце)*. Пры выбары формы кіравання трэба звяртаць увагу не толькі на канкрэтны граматычны змест канструкцыі (параўнаем: *помнік Я. Коласу* і *помнік З. Азгура*), але і на семантыку слоў і іх сінтаксічныя патэнцыі. У многіх выпадках форма кіравання залежыць ад індывідуальных асаблівасцей як граматычна галоўнага слова, так і кіруемага кампанента. Напрыклад, існуе выразная розніца паміж формамі *звяртаць (накіроўваць) увагу на каго, на што; удзяляць (аказваць) увагу каму, чаму; праяўляць (узмацняць) увагу да каго, да чаго; засяроджваць увагу на кім, на чым*. Норма кіравання тут мяняецца ў залежнасці ад лексічнага значэння дзеяслова. Вельмі часта парушаецца кіравальная сувязь у спалучэннях з дзеясловамі *жартаваць, смяяцца, здзекавацца, кпіць, дзівіцца, глуміцца* (няправільна: *смяяцца над чалавекам, жартаваць над хлопчыкам)*. Гэтыя дзеясловы ў беларускай мове кіруюць родным склонам з прыназоўнікам *з*; дзеясловы *дзякаваць, прабачаць, выбачаць, даравацъ* — давальным склонам; дзеясловы *ажаніць, ажаніцца* — творным склонам з прыназоўнікам *з*. Таму спалучэнні *дзякаваць вас, ажаніцца на Ганне* — парушэнне нормы.

Часта дапускаюцца памылкі і пры выбары граматычнай формы дапасавання (пішуць, гавораць: *тры вялікіх дубы, два поўных мяшкі, большасць уладкоўваюцца* і г. д.). Паводле нормы, пры дзейніку *большасць* (або *меншасць, некалькі* і інш.) + + назоўнік у родным склоне множнага ліку выказнік выкарыстоўваецца пераважна ў форме адзіночнага ліку, калі: назоўнік абазначае неадушаўлёны прадмет *(некалькі станкоў стаяла)*; пры слове *большасць* ёсць азначэнне *(абсалютная большасць прагаласавала, пераважная большасць абмеркавала)*; выказнік выражаны дзеясловам (ці дзеепрыметнікам) залежнага стану *(большасць позваў уручана, большасць кніг прачытана)*; выказнік папярэднічае дзейніку *(прагаласавала большасць дэлегатаў)*. У іншых выпадках дапускаецца выкарыстанне выказніка ў множным ліку.

Сінтаксічныя нормы беларускай літаратурнай мовы вывучаны слаба. Асноўныя з іх характарызуюцца ў граматыках і падаюцца ў слоўніках.

Фразеалагічныя нормы рэгулююць традыцыйнае, замацаванае вуснай і пісьмовай практыкай ужыванне фразеалагізмаў з характэрнымі для іх структурна-граматычнымі, семантычнымі і спалучальнымі асаблівасцямі. Часта сустракаюцца выпадкі нічым не апраўданага парушэння формы або семантыкі фразеалагізма. Параўнаем: *Выступаў я з высокіх трыбун, даказваў, прасіў, пераконваў, дык далі па карку: «На лёгкі хлеб захацеў?»; Мармычу пад носам дзіцячыя песні*. У першым сказе выкарыстаны фразеалагізм *даць па карку*, аднак яго нарматыўнае значэнне «набіць, пакараць; вызваліць ад пасады» з кантэксту не выяўляецца. Выслоўе ўжыта няправільна. У другім сказе фразеалагізм выкарыстаны і няправільна і недарэчна. Звычайна выслоўе *пад носам* ужываецца са значэннем «вельмі блізка, побач»; у прыведзеным кантэксце яно выяўляе зусім іншую семантыку — «ціха, сам сабе, нягучна», якая характэрна для падобнага структураю фразеалагізма *пад нос*. Многія фразеалагізмы маюць валентна абмежаванае значэнне, якое рэалізуецца толькі ў спалучэнні з канкрэтным словам. Так, фразеалагізм *напрамілы бог* спалучаецца толькі з дзеясловамі *прасіць, прасіцца*, таму ў сказе *Яго разбудзіў крык зайца напрамілы бог* парушана норма спалучальнасці. Фразеалагічныя нормы распрацаваны І. Я. Лепешавым у кнізе «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы» (1984).

Лексічныя нормы выводзяць за рамкі ўжывання тыя адзінкі, якіх не прымае літаратурнамоўная практыка. У некаторых публікацыях сцвярджаецца, што лексічныя нормы быццам бы рэгулююць выбар слова, дыктуюць носьбітам мовы «свае ўмовы». Але з гэтым пагадзіцца нельга. Аўтарская праца над словам паказвае, што замена аднаго слова другім, пошукі найбольш дакладнага і дарэчнага слова дыктуюцца не характарам (норавам) нормы, а прынцыпам мэтазгоднасці. Так, у аповесці Я. Коласа «Адшчапенец» у першым варыянце было: *Ён не бачыць плесені заскарузлага ў сваёй архаічнасці вясковага жыцця*. Рыхтуючы тэкст да перавыдання, пісьменнік замяніў слова *архаічнасць* больш натуральным — *старадаўнасць:* яно ў кантэксце твора найбольш стылістычна апраўданае. Між тым слова *архаічнасць* само па сабе ніколькі не супярэчыла прадпісанням тлумачальнага слоўніка. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што выбар слова рэгулюецца не нормай, а мэтазгоднасцю. Лексічныя нормы ў шырокім плане — гэта правільнасць выбару слова і дарэчнасць прымянення яго ў агульнавядомым значэнні і ў агульнапрынятых спалучэннях. Аднак трэба мець на ўвазе, што менавіта лексіка найбольш адчувальная да змен, якія пастаянна адбываюцца ў духоўнай і матэрыяльнай сферы грамадскага жыцця (паяўляюцца новыя словы, пашыраецца або звужаецца семантычная структура традыцыйных слоў, «ажываюць» даўно страчаныя мовай словы і г. д.). Таму норма ў лексіцы дзейнічае не так сурова, як, напрыклад, у марфалогіі. Можна сказаць, што ўвогуле лексічная сістэма ўсім сваім арганізмам аказвае адчувальнае супрацьдзеянне нармалізацыі і уніфікацыі.

Стылістычныя нормы рэгулююць стылістычную арганізацыю маўлення ў плане выбару не толькі пэўных слоў і сінтаксічных канструкцый, але і марфалагічных форм. Як вядома, кожны стыль мае свае нормы, свае, адметныя ад іншых стыляў моўныя сродкі. Стылістычна абмежаваныя словы пазначаюцца ў слоўніках спецыяльнымі паметамі. Напрыклад, у «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» паметай *разм.* (размоўнае) адзначаны шырокі пласт слоў або іх паасобных значэнняў, ужыванне якіх абмежавана гутарковым маўленнем (вусным або пісьмовым). Гэта словы *гарляк, гарлапан, гарладзёр, гарлапаніць, гарласты, гарлаць, гармідар, гарнушак, гаротнік, гаротніца* і інш. Але пры неабходнасці гэтыя і падобныя словы можна выкарыстоўваць у іншых стылях, калі гэта не будзе пярэчыць дарэчнасці як істотнай камунікатыўнай якасці маўлення. Адсюль можна заключыць, што ў стылістыцы, як і ў культуры маўлення, пануе саюз нормы і мэтазгоднасці.

Развіццё літаратурнай мовы — гэта па сутнасці станаўленне, развіццё і ўдасканальванне яе норм у адпаведнасці з патрэбамі грамадства і ў сувязі з унутранымі заканамернасцямі моўнага развіцця.

*Літ.*: Беларуская граматыка. Ч. 1—2. Мн., 1985—86; Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне. Мн., 1987; Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976; Янкоўскі Ф. М. Беларускае літаратурнае вымаўленне. 4 выд. Мн., 1976; Горбачевич К. С. Нормы современного русского литературного языка. М., 1978; Головин Б. Н. Основы культуры речи. М., 1980; Лепешаў І. Я. Асновы культуры мовы і стылістыкі. Мн., 1989; Бірыла М. В. Націск назоўнікаў у сучаснай беларускай мове. Мн., 1986; Арашонкава Г. У., Лемцюгова В. П. Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы. Мн., 1987; Падлужны А. І. Нормы беларускага літаратурнага вымаўлення // Сучасная беларуская мова: (Пытанні культуры мовы). Мн., 1973; Міхневіч А. Я. Сінтаксічная норма і кантамінацыя словазлучэнняў // Тамсама; Арашонкава Г. У. Да пытання аб некаторых склонавых формах назоўнікаў // Тамсама; Наркевіч А. І. Граматычная норма і варыянтнасць // Культура мовы журналіста. Мн., 1982. Вып. 1; Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. 2 выд. Мн., 1987; Юрэвіч А. К. Стылістыка беларускай мовы Мн., 1983.

*Т. І. Тамашэвіч.*



Устаў ІІ ст.



Паўустаў 15 ст.



Паўустаў 16 ст.



Паўустаў 17 ст.



Скорапіс 15 ст.



Скорапіс 16 ст.



Скорапіс 17 ст.



Ф.Скарыны 16 ст.



Статута ВКЛ 1588 г.



Друкаваная 17 ст.



Грамадзянская
18 ст.

*Суджана, стаўлена пад перакладзіны,*
*Сечана, палена, а не аддадзена,*
*Не парастрачвана і не раскрадзена,*
*Рупна ў падмуркі на золку пакладзена*
*Роднае слова.*
*Хоць яго з поля, як зелле, высмыквалі,*
*Не забывалася ў песні музыкавай,*
*Не забывалася ў долі нясытае,—*
*Намі навечна ў насевак усыпана*
*Роднае слова.*

Максім Лужанін



**О** — *шаснаццатая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай О («он»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай О («омікрон»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала галосны гук о пасля цвёрдых зычных* (народъ, столъ). *Мела таксама лічбавае значэнне «семдзесят». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скарапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст. акрамя рукапіснай набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваіца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. Паралельна з ёй для абазначэння гука* о *пераважна ў пачатку слоў выкарыстоўвалася літара* ѡ *(«отъ», лічбавае значэнне «восемсот»), утвораная на аснове грэка-візантыйскай* ѡ *(«амега»):* ѡлово, ѡраті. *У сучаснай беларускай мове літара* о *абазначае лабіялізаваны галосны гук* о *задняга рада сярэдняга пад'ёму ў пачатку слоў і пасля цвёрдых зычных пад націскам* (Орша, родны). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную формы. Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «пятнаццаты» (група «О»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 5О).* *А. М. Булыка.*

## ОРГАНЫ МОВЫ

Органы мовы — органы чалавека, пры дапамозе якіх утвараюцца гукі мовы. Усе яны, акрамя галасавых звязак, выконваюць найперш фізіялагічныя функцыі. Утварэнне моўных гукаў з'яўляецца іх другаснай функцыяй, невядомай іншаму жывёльнаму свету.

Органы мовы ўключаюць тры вялікія блокі: дыхальны апарат, гартань і надгартанныя поласці. Дыхальны апарат складаецца з лёгкіх, бронхаў і дыхальнага горла (трахеі). З'яўляючыся энергетычнай сістэмай для ўтварэння гукавых хваль (ваганняў паветра), ён адначасова забяспечвае плынь паветра ў моўным апараце, стварае збыткоўны паветраны ціск. З дапамогай мускулатуры бронхаў, а таксама дыяфрагмы і рэбраў, якія забяспечваюць сцісканне і расшырэнне бронхаў і грудной клеткі, лёгкія то засмоктваюць паветра на ўдыханні, то яго выціскаюць з сябе (на выдыханні). У час вымаўлення ўдыханне з'яўляецца больш кароткім, а выдыханне больш працяглым па часе, чым пры звычайным дыханні, бо гукі ўтвараюцца, як правіла, на выдыханні.

Гартань — орган, які складаецца з рухомых храсткоў, што забяспечваюць нацяжэнне галасавых звязак — эластычнай мышачнай тканкі і адкрыццё галасавой шчыліны. Дзякуючы рознаму нацяжэнню галасавых звязак утвараецца трохвугольная шчыліна, якая то закрываецца, то адкрываецца. У выніку на выхадзе гартані ўзнікае ваганне паветра, якое ўспрымаецца як гук.

Вышэй галасавых звязак знаходзіцца поласць глоткі, насавая і ротавая поласці. Выйсце ў насавую поласць адкрываецца і закрываецца мяккім паднябеннем, а ротавая поласць можа перакрывацца языком або губамі. Гэтыя поласці служаць рэзанатарамі, якія ўзмацняюць асобныя частоты гукавой хвалі, утворанай у гартані. У сувязі з гэтым першасны гук значна змяняецца, набываючы тыя якасці, якія і ўспрымаюцца як гукі мовы.

Поласць глоткі ўтвараюць надгартаннік і корань языка. Задняя сценка ахопліваецца трыма петлепадобнымі мышцамі, якія сціскаюць глотку пры заглынанні ежы. У гэты час надгартаннік закрывае праход у гартань, каб ежа не трапіла ў дыхальныя шляхі. Памер глотачнага рэзанатара пры гукаўтварэнні рэгулюецца коранем языка, надгартаннікам і петлепадобнымі мышцамі задняй сценкі глоткі. Калі адбываецца поўнае змыканне гэтых органаў, утвараецца гартанная змычка, якая стварае так званы цвёрды прыступ галосных (напрыклад, характэрны галосным нямецкай мовы; яго можна назіраць і ў беларускім размоўным *не-а*). Пры звужэнні ўтвараецца фарынгальны [г], як ва ўкраінскай мове; ён ёсць і ў некаторых гаворках беларускай мовы, часта можна пачуць і ў літаратурнай мове, асабліва ў выклічніку *ага*.

Найважнейшую ролю ў гукаўтварэнні адыгрывае поласць рота. Яна ўтвараецца зубамі, цвёрдым і мяккім паднябеннем, ніжняй сківіцай і сценкамі шчок. У ёй размешчаны самы рухомы моўны орган — язык. Аб'ём гэтай поласці мяняецца дзякуючы ніжняй сківіцы і языку. Язык — мышачнае ўтварэнне, якое з'яўляецца як бы патаўшчэннем ніжняй часткі ротавай поласці. Задняя частка языка, што размешчана ў глотцы, называецца коранем. Паверхня самога цела языка называецца спінкай. Спінка падзяляецца на пярэднюю, сярэднюю і заднюю часткі. Дзякуючы сваёй рухомасці язык адыгрывае дваякую ролю. Пры вымаўленні адных гукаў (галосныя, губныя) ён падзяляе ротавую поласць на дзве падполасці, якія дзейнічаюць як рэзанатары. Пры вымаўленні іншых акрамя фарміравання рэзанатараў язык стварае поўную (змычка) або частковую (шчыліна) перашкоду, якія з'яўляюцца крыніцай гуку.

У адпаведнасці з падзелам спінкі языка і нерухомае верхняе паднябенне падзяляецца на пярэднюю, сярэднюю і заднюю часткі. Самая край-




**Схема асноўных вузлоў моўнага тракту (па Дж. Фланагану): 1 — паднябенная заслонка; 2 — насавая поласць; 3 — адтуліна для вылучэння гукавой хвалі з насавога тракту; 4 — адтуліна для вылучэння гукавой хвалі з ротавай поласці; 5 — ротавая поласць; 6 — паднятая частка языка; 7 — гартанная трубка; 8 — трахея і бронхі; 9 — мускульная сіла (дыяфрагма); 10 — аб'ём лёгкіх; 11 — галасавыя звязкі.**

няя частка верхняга паднябення, у якой знаходзяцца карані зубоў, называецца альвеалярным бугром. Верхнія і ніжнія зубы, як і паднябенне, з'яўляюцца нерухомымі органамі і адыгрываюць важную ролю ва ўтварэнні гукаў. Іх страта, асабліва пярэдніх, зніжае якасць гукаў. Актыўную ролю ў гукаўтварэнні адыгрываюць губы. Узаемадзеяннем з верхнімі зубамі яны ствараюць крыніцу шуму для [в], [в'], [ф], [ф'], а ўзаемадзеяннем паміж сабою ствараюць поўную перашкоду (змычку) пры вымаўленні [б], [б'], [м], [м'] або дадатковы рэзанатар і рэгулююць велічыню выхаду з ротавай поласці пры ўтварэнні [о], [у], [ў]. Насавая поласць з'яўляецца нязменным паводле аб'ёму рэзанатарам, які ўключаецца пры ўтварэнні насавых гукаў [м], [м'], [н], [н']. Праход гукавой хвалі ў яе адкрываецца і закрываецца мяккім паднябеннем, якое заканчваецца язычком. Пры запаленчых захворваннях мяккае паднябенне траціць сваю эластычнасць і здольнасць цалкам закрываць выйсце ў поласць носа. У гэтым выпадку мова чалавека набывае спецыфічны гугнявы характар. У час сну пры пэўным стане арганізма (напрыклад, па старасці) мяккае паднябенне вельмі расслабляецца і вагаецца паветрам пры ўдыханні і выдыханні, чым абумоўлены храп. Моўны апарат уяўляе сабой акустычную сістэму (гл. малюнак), дзеянне якой пры вымаўленні рэгулюецца вышэйшай нервовай сістэмай пад кантролем органа слыху. Калі орган слыху не можа з-за якіх-небудзь прычын ажыццяўляць такі кантроль, то нармальнае маўленне немагчыма.

Роля органаў чалавека, якія ўдзельнічаюць ва ўтварэнні гукаў мовы, пацвярджаецца мадэляваннем механічных прыстасаванняў, якія здольны «вымаўляць» асобныя гукі, словы і нават фразы. Першая зафіксаваная спроба штучнага стварэння гукаў была ажыццёўлена акадэмікам Расійскай імператарскай акадэміі навук Кратцэнштэйнам, які ў 1779 г. прадставіў на конкурс сістэму сканструяваных ім рэзанатараў, аналагічную па форме моўнаму апарату чалавека. Гэта сістэма ўзбуджалася вібрыруючымі язычкамі, якія перапынялі плынь паветра накшталт галасавых звязак. Гэта прыстасаванне здольна было ўтвараць галосныя гукі рускай мовы. У 1791 г. нямецкі вынаходца Кемплен зрабіў больш складанае прыстасаванне, якое магло «вымаўляць» звязныя фразы. Пры дапамозе меха, накшталт кавальскага, падавалася паветра на язычок, злучаны з рэзанатарам. Зычныя атрымліваліся з дапамогай чатырох каналаў, якія сціскаліся пальцамі. У выніку атрымліваліся гукі, падобныя на тыя, што стварае чалавек пры маўленні. Гэта прыстасаванне, зробленае па апісанні значна пазней англічанінам Уінстанам, зрабіла моцнае ўражанне на будучага вынаходцу тэлефона Аляксандра Грэхена Бэла, які скапіраваў органы мовы (змадэляваў з гутаперчы і гумы губы, язык, паднябенне, зубы, глотку і мяккае паднябенне). Усе гэтыя элементы злучаліся з клавіятурай кіравання, з дапамогай якога можна было атрымаць галосныя і насавыя гукі, а таксама цэлыя гукаспалучэнні. Напэўна, зробленая хлопчыкам мадэль выдавала не вельмі якасныя гукі, але гэтага было дастаткова, каб звярнуць увагу блізкіх, а вынаходцу развіць цікаўнасць да мовы, якая ў далейшым штурхнула яго зрабіць паспяховую спробу навучыць свайго тэр'ера гаварыць. Бэл навучыў яго сядзець на задніх лапах і бесперапынна гыркаць. А сам у гэты час рэгуляваў рукой велічыню раскрыцця пашчы і становішча языка. У выніку ў сабакі атрымліваліся гукі [а] і [у], дыфтонг [оу], склады [ма] і [га]. Вяршыняй была фраза How are you, Grandmother (Як маешся, бабуля?). Дзіцячае імкненне да пазнання моўных працэсаў урэшце прывяло Бэла да вынаходства ў 1876 г. тэлефона, якое дало штуршок развіццю радыё, тэлебачання і касмічнай сувязі. Але найбольш поўнае пацвярджэнне функцый асобных органаў мовы ва ўтварэнні гукаў мовы атрыманы ў 20 ст. Р. Пейджэтам. Ён не толькі зрабіў з гіпсавых трубак дакладныя мадэлі моўнага апарата, але і авалодаў майстэрствам рукамі ствараць канфігурацыі рэзанатараў такім чынам, што ўзнікала ўражанне, быццам ён гаворыць рукамі. Аднак механічнае мадэляванне паказала, што нават пры дасягненні высокай якасці асобных гукаў нельга атрымаць такой жа якасці больш-менш працяглых адрэзкаў гучання.

З развіццём рэнтгенаскапіі, а затым кінарэнтгенаскапіі, дынамічнай палатаграфіі і іншых сучасных метадаў даследавання руху моўных органаў і іх узаемнай каардынацыі ў час маўлення стала зразумела, што дакладна змадэляваць іх механічнымі прыстасаваннямі нават у цяперашніх умовах практычна немагчыма. Затое дакладныя веды дазваляюць дасягнуць значных поспехаў у выпраўленні дэфектаў мовы і нават у пастаноўцы вымаўлення глуханямых. На першапачатковым этапе пры вымаўленні патрэбнага гука становішча рухомых органаў, асабліва языка, устанаўліваецца чыста механічным спосабам, напрыклад пры дапамозе шпатэля, затым у пацыента выпрацоўваецца навык рабіць гэта аўтаматычна. Зараз нярэдка можна сустрэць людзей, якія нічога не чуюць, але дастаткова зразумела могуць вымаўляць.

На аснове апісальных звестак аб органах мовы і іх дзеянні ў працэсе маўлення была пабудавана акустычная тэорыя моваўтварэння. Яна дазваляе ўстанавіць акустычныя ўласцівасці гука, калі вядома становішча органаў мовы пры яго вымаўленні. Але тэорыя не дае адназначнага адказу, якое становішча займалі органы мовы пры вымаўленні пэўнага гука, акустычная карціна якога вядомая. Тлумачыцца гэта тым, што моватворчы апарат валодае вялікімі кампенсацыйнымі магчымасцямі. Ёсць нямала людзей, якія маюць у большай або меншай ступені дэфармаваны моўны тракт. У прыватнасці, відавочна, няма двух чалавек, у якіх былі б аднолькавыя форма паднябення, велічыня і форма языка, якія ў працэсе моваўтварэння фарміруюць ротавыя рэзанатары. Таму адзін і той жа акустычны эфект атрымліваецца пры розным становішчы органаў мовы. На жаль, кампенсацыйныя магчымасці асобных органаў мовы да гэтага часу практычна не вывучаны.

Акустычная тэорыя моваўтварэння не ўлічвае і магчымасць стварэння мовападобных гукаў і іншымі фізіялагічнымі механізмамі. Так, напрыклад, яна не ўлічвае, як утвараюць гукі птушкі-перасмешнікі (шпакі, сарокі, канарэйкі, папугаі), у якіх «моўны апарат» зусім не падобны на чалавечы. Вось чаму цяпер сучасныя гаворачыя машыны (сінтэзатары мовы) ствараюцца не на аснове мадэлявання работы моўнага апарата, а шляхам імітацыі акустычнай карціны гукаў (дынамічных спектраграм) з дапамогай электронных гукавых генера-

тараў. Буйных поспехаў у галіне сінтэзу мовы, у тым ліку агучвання надрукаванага тэксту на розных мовах (і на беларускай), дасягнула лабараторыя Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН Беларусі, якую ўзначальвае доктар тэхнічных навук Б. М. Лабанаў. У даследчых мэтах сінтэз беларускай мовы ажыццёўлены ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Літ.:* Фланаган Дж. Л. Анализ, синтез и восприятие речи. М., 1968; Падлужны А. І., Чэкман В. М. Гукі беларускай мовы. Мн.; 1973; Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984.

*А. І. Падлужны.*

П Устаў 11 ст.

п Паўустаў 15 ст.

п Паўустаў 16 ст.

П Паўустаў 17 ст.

п Скарапіс 15 ст.

п Скарапіс 16 ст.

П п Скарапіс 17 ст.

П п Ф.Скарыны 16 ст.

П п Статута ВКЛ 1588 г.

П п Друкаваная 17 ст.

П п Грамадзянская 18 ст.

*Слова! Цуд найвялікшы між цудаў-дзівосаў,*
*Што здзіўляў у вяках і здзіўляе нанова.*
*Трапяткое, жывое, як сонца у росах,*
*Несмяротнае, роднае матчына слова!*
*Слова песні крылатай і прыказкі мудрай,*
*Слова клятвы на вернасць, прысягі суровай.*
*Слова гонару, доблесці, святаў і будняў.*
*Міру, дружбы, братэрства набатнае слова!*

Ніл Гілевіч



**П** — *семнаццатая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай П («пакой»), утворанай на аснове грэка-візантыйскай устаўнай П («пі»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* п, п', (палацъ, праца, пятно). *Мела таксама лічбавае значэнне «восемдзесят». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст. акрамя рукапіснай набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумныя глухія выбухныя губна-губныя зычныя гукі* п, п' (парог, праўда, пясок — *«п'асок»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ПАРП, ППШ). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «шаснаццаты» (група «П»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (паліца № 4п).*

*А. М. Булыка.*

## ПАБОЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ

Пабочныя канструкцыі — гэта сінтаксічныя адзінкі (словы, спалучэнні слоў і сказы), пры дапамозе якіх выражаюцца адносіны таго, хто гаворыць, да зместу выказвання. Пабочныя канструкцыі нясуць дадатковую, суб'ектыўна-ацэначную інфармацыю. З іх дапамогай можна:

1) выказаць упэўненасць ці няўпэўненасць адносна адпаведнасці зместу паведамлення фактам рэчаіснасці: *безумоўна, бясспрэчна, сапраўды, без сумнення, я ўпэўнены, магчыма, здаецца, напэўна, мне здаецца* і інш. *А лес, **здаецца,** закружыўся ў вальсе* (П. Панчанка); *І каб не рань, і каб не сінь, і каб не чулы другаў ліст, **магчыма,** існавала б я, а так — жыву і буду жыць!* (Е. Лось);

2) указаць на крыніцу аўтарства выказвання: *па-мойму, па-твойму, паводле слоў, на мой погляд, як кажуць, моў (маўляў)* і інш. *Твар Язэпкаў, **як здалося дзеду,** пасвятлеў* (А. Якімовіч); ***Паводле самога Панчанкі,** Святлоў — гэта рыцар паэзіі і дабраты* (Г. Бураўкін);

3) даць эмацыянальную ацэнку фактам, пра якія паведамляецца: *на шчасце, на жаль, як на зло, як на бяду* і інш. *А зручны выпадак, **як на шчасце,** зараз жа выпаў* (П. Броўка); ***На гора,** яны і звязанага чалавека ніколі не бачылі* (З. Бядуля);

4) выказаць адносіны да спосабу выказвання: *іншымі словамі, інакш сказаць, калі можна так сказаць, карацей кажучы* і інш. *Жывеш ты, **можна сказаць,** як слуцкі князь* (Я. Скрыган); ***Карацей кажучы,** весці славесны паядынак з ксяндзом мне было не пад сілу* (А. Карпюк);

5) ацаніць меру ці ступень якой-небудзь якасці, значнасць пэўнага факта: *галоўнае, самае галоўнае, па меншай меры, галоўным чынам* і інш. *Ён акінуў вокам супрацоўнікаў і, **галоўным чынам,** супрацоўніц* (К. Чорны); *Але бяседы, спектаклі і песні, **а галоўнае,** новыя ўмовы жыцця ўзялі верх над старым календаром* (З. Бядуля);

6) спаслацца на звычайнасць фактаў, пра якія паведамляецца: *бывае, як заўсёды, здараецца, часам бывала* і інш. *Тут такая чаромха буяла — не прабіцца вятрыскам крылатым, хлопцы з вуліцы нашай, **бывала,** прызначалі спатканне дзяўчатам* (А. Лойка);

7) звярнуцца да субяседніка ці чытача з мэтай актывізаваць яго ўвагу, выклікаць у яго пэўныя адносіны да названых фактаў: *заўважце, звярніце ўвагу, паверце, прыміце пад увагу, уяві сабе* і інш. *Трэба актыўна ўключыцца ў справу, каб марна не траціць час, бо жыццё, **заўваж,** праходзіць* (П. Пестрак); ***Глядзі,** брат, за двума зайцамі пагонішся, ніводнага не зловіш* (К. Крапіва);

8) устанавіць лагічныя адносіны паміж часткамі выказвання: *па-першае, па-другое, такім чынам, дарэчы, між іншым* і інш. *Яму хацелася, **па-першае,** апраўдаць сваю славу чалавека з лёгкай рукою, а **па-другое,** мелася на ўвазе насаліць дзеду Піліпу за кпіны* (Я. Колас); *Можна мароз палаяць, **між іншым,** разам з дарогай* (Р. Барадулін).

Сінтаксічнай асаблівасцю пабочных канструкцый з'яўляецца іх фармальная незалежнасць ад асноўнага састава сказа, з якім яны не звязваюцца ні злучальнай, ні падпарадкавальнай сувяззю. Пабочныя адзінкі звязваюцца з асноўным саставам сказа сэнсава-інтанацыйнай сувяззю, граматычныя паказчыкі якой — пазіцыя і інтанацыя. Пазіцыя ў пачатку і ў канцы сказа характэрна для тых пабочных адзінак, якія па сэнсу звязаны з усім саставам сказа: ***Сапраўды,** цудоўныя мясціны прыгарадаў Вільнюса раскрываліся перад ім* (П. Броўка); ***Можа,** узяўшы сэрца пад апеку, можна адагнаць адчаю цень* (С. Грахоўскі).

Пры сувязі пабочных кампанентаў з асобным членам сказа яны, як правіла, размяшчаюцца побач з ім: *Ну... зычу шчасця і, **галоўнае,** удачы* (М. Лынькоў); *Але вы бачыце, што таварыш Іванюта, **відаць,** не па песні да нас прыйшоў* (П. Броўка).

Пры вымаўленні пабочныя канструкцыі аддзяляюцца ад асноўных кампанентаў сказа паўзамі, а на пісьме, як правіла, коскамі. Інтанацыя пабочнасці характарызуецца паніжаным тонам і больш хуткім тэмпам.

Па структуры сярод пабочных канструкцый выдзяляюць пабочныя ска-

зы і пабочныя адзінкі — рэлікты ці эквіваленты сказаў. Сярод пабочных сказаў найбольш пашыраны:

двухсастаўныя сказы: *я ўпэўнены, я думаю, як ты гаворыш, сцвярджае народ, як вы гаварылі* і інш. *Такім быў, **я помню,** наш транспарт звычайны* (П. Броўка); *Адгукнуцца, **я ўпэўнены,** дзесяткі людзей, якія дагэтуль маўчалі* (І. Шамякін);

аднасастаўныя пэўна-асабовыя сказы: *думаю, бачу, знаю, знаеце, ведаеце, даруй, уяві сабе, клянуся, скажу вам* і інш. *Але паганая праўда, **скажу табе,** Лявоне* (М. Лынькоў); *Шапку зняў, **паверце,** і стаяў вось так* (З. Бядуля);

аднасастаўныя няпэўна-асабовыя сказы: *як кажуць, казалі, як гаварылі, як гавораць* і інш. *А яшчэ салаўі ў вас, **кажуць,** добрыя* (П. Броўка); *Не далічыліся ў роце Мірона Гукая. Загінуў, **казалі,** у акопе* (А. Куляшоў);

аднасастаўныя безасабовыя сказы: *здавалася, яму здалося, як высветлілася, можна сказаць* і інш. *Усё ішло, **здавалася яму,** сваёй дарогаю* (Я. Колас); *А таго не ведаеш, што гэта праз яго, **можна сказаць,** наша сяло згарэла* (Б. Сачанка).

Пабочныя адзінкі — рэлікты ці эквіваленты сказаў, выражаюцца адным словам *(безумоўна, напэўна, мабыць, мусіць* і інш.); спалучэннямі знамянальнага слова са службовым *(на шчасце, сказаў бы, па чутках, як відаць, ці паверыце* і інш.); спалучэннямі двух і больш знамянальных слоў *(галоўным чынам, самае галоўнае, паводле яго расказа* і інш.). Семантычную аснову ўсіх канструктыўных тыпаў пабочных адзінак складае спадарожнае суб'ектыўна-ацэначнае значэнне.

Марфалагічнымі сродкамі выражэння пабочных адзінак — слоў і спалучэнняў слоў — з'яўляюцца:

мадальныя словы: *канешне, вядома, безумоўна, бясспрэчна, напэўна, сапраўды, мабыць, мусіць, магчыма* і інш. *Нам яшчэ сустракацца з табою не раз, **безумоўна*** (А. Куляшоў); *Не бачыў, **мусіць,** гора, калі не ясі, што даюць* (К. Чорны);

прыслоўі: *па-мойму, па-вашаму, паіхняму, карацей, праўдзівей* і інш. *Яна іграла Машу і, **па-мойму,** іграла лепш за ўсіх* (І. Шамякін); *Вось яго кватэра, **праўдзівей,** яго былая кватэра* (Я. Колас);

спалучэнні назоўніка з прыназоўнікамі (часам з паясняльнымі словамі): *на шчасце, на радасць, на яго думку, на здзіўленне, па меншай меры* і інш. *Хата, **на нашае шчасце,** уцалела* (Я. Брыль); *Ен, **на здзіўленне ўсяму сялу,** пачынаў купацца ў красавіку* (І. Шамякін);

спалучэнні дзеепрыслоўя з рознымі часцінамі мовы: *проста кажучы, уласна кажучы, карацей кажучы, між намі кажучы* і інш. *Давайце прыступім да справы, дзеля якой, **уласна кажучы,** мы сабраліся* (Я. Колас).

Пабочныя канструкцыі шырока ўжываюцца ва ўсіх стылях беларускай мовы. Але злоўжываць імі нельга. Ужытыя недарэчы, яны засмечваюць мову. Іх выкарыстанне павінна быць апраўдана тым зместам, які хоча выразіць асоба, што гаворыць.

*Літ.*: Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986. Базыленка А. М. Пабочныя і ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Мн., 1964; Аўласевіч М. А. Пабочныя кампаненты сказа ў беларускай літаратурнай мове. Мн., 1970. *М. А. Аўласевіч.*

## ПАДГАЙСКІ ЛЕАНІД ПРАКОПАВІЧ



Беларускі мовазнавец Л. П. Падгайскі нарадзіўся 25 лістапада 1934 г. ў Ленінградзе ў сям'і рабочых-беларусаў, якія праз год вярнуліся на радзіму ў Мсціслаў Магілёўскай вобласці. У 1953 г. скончыў Мсціслаўскае педвучылішча. Настаўнічаў. У 1962 г. скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут. Кандыдат філалагічных навук (1966). Доктар педагагічных навук (1980). Працаваў у Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага старшым выкладчыкам, дацэнтам (1968—74) кафедры беларускай мовы, намеснікам дэкана (1971—74), дэканам (з 1974), прарэктарам па вучэбнай рабоце (з 1978). Памёр 4 жніўня 1980 г.

Даследаваў сінтаксіс беларускай мовы і методыку яе выкладання ў пачатковых класах. У манаграфіі «Словазлучэнне ў беларускай мове: Дзеяслоўна-іменныя словазлучэнні з акалічнаснымі адносінамі» (1971) Л. П. Падгайскі разглядае сістэму дзеяслоўна-іменных словазлучэнняў з прасторавымі, часавымі, прычыннымі і мэтавымі адносінамі, высвятляе ролю галоўнага і залежнага кампанентаў гэтых словазлучэнняў, а таксама прыназоўнікаў і суадноснасць іх з прыстаўкамі дзеясловаў прэфіксальнага ўтварэння.

Л. П. Падгайскі — аўтар метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў «Беларуская мова ў трэцім класе» (1971), «Вывучэнне беларускай мовы ў пачатковых класах: Граматыка, правапіс, развіццё мовы» (1975), «Методыка беларускай мовы: (Граматыка і правапіс). I—III класы» (1981), сааўтар прац «Беларуская мова ў першым класе» (1970), «Беларуская мова ў другім класе» (1971), «Зборнік дыктантаў» (1973), «Сучасная беларуская літаратурная мова: Марфалогія» (1975), «Практычныя работы па беларускай мове: (Граматыка і правапіс). I—III класы» (1976), «Развіццё мовы вучняў пачатковых класаў» (1979), шэрага падручнікаў па беларускай мове для пачатковых класаў.

*Тв.*: Да характарыстыкі сінтаксісу народных гаворак // Лінгвістычны зборнік. Мн., 1965; Устойлівыя выразы са значэннем часу // Полымя. 1966. № 1; Іван Бялькевіч і яго слоўнік // Тамсама. 1971. № 7; Непадзельныя словазлучэнні ў ролі даданых членаў сказа // Нар. асвета. 1968. № 1; Родная мова — своеасаблівы сінтэтычны прадмет // Тамсама. 1969. № 6; Словазлучэнне як прадмет сінтаксісу // Тамсама. 1970. № 8; Слова — складаны і шматгранны комплекс // Тамсама. 1974. № 5; Пераказ і методыка яго правядзення // Тамсама. 1974, № 12; Сачыненне і методыка яго правядзення // Тамсама. 1975. № 12; Разбор слова і сказа // Тамсама. 1976. № 8. *І. К. Германовіч.*

## ПАДЛУЖНЫ АЛЯКСАНДР ІОСІФАВІЧ



Беларускі мовазнавец А. І. Падлужны нарадзіўся 16 жніўня 1935 г. ў в. Залессе Мсціслаўскага раёна.

У 1954 г. скончыў Мсціслаўскае педвучылішча, у 1959 г.— аддзяленне беларускай мовы і літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Доктар філалагічных навук (1982), прафесар (1989), акадэмік Акадэміі навук Беларусі (1994). Настаўнічаў. З 1962 г.— у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі (з 1969 г. загадчык аддзела эксперыментальнай фанетыкі, з 1983 г. намеснік дырэктара па навуковай рабоце, з 1989 г. дырэктар інстытута).

А. І. Падлужны — аўтар больш чым 60 навуковых прац па розных праблемах беларускай фанетыкі і фаналогіі, сучаснай беларускай лексікаграфіі, граматыкі, правапісу і культуры мовы. Ён стварыў у Інстытуце мовазнаўства лабараторыю эксперыментальнай фанетыкі, у якой праведзены даследаванні вуснай беларускай мовы. У манаграфіі «Фаналагічная сістэма беларускай мовы» (1969) упершыню даследаваў фанемны склад беларускай мовы і разгледзеў механізм функцыяніравання гукаў, які не паддаецца непасрэднаму назіранню. Гэта даследаванне паслужыла тэарэтычнай асновай для эксперыментальнага вывучэння гукаў беларускай мовы. У кнізе «Гукі беларускай мовы» (з В. М. Чэкманам, 1973) разгледжаны асаблівасці ўтварэння галосных і зычных гукаў беларускай мовы. Такое апісанне ўпершыню зроблена на эксперыментальным матэрыяле (рэнтгенаграм, палатаграм, лінгваграм, адантаграм дыктараў, якія валодаюць літаратурнымі нормамі вымаўлення). У манаграфіі даследаваны месца і спосаб утварэння гукаў паводле дадзеных палатаграфіі і кінарэнтгенаграфіі, а таксама прапанавана артыкуляцыйна-фізіялагічная класіфікацыя зычных і галосных гукаў і апісанне асноўных характарыстык артыкуляцыйнай базы беларускай мовы. Кніга дала пачатак стварэння навуковай апісальнай фанетыкі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

У манаграфіі «Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы» (1977) на аснове дадзеных сучасных электронна-акустычных прыбораў прааналізаваны ўласцівасці вуснай беларускай мовы, якія абумоўліваюць яе падзел на гукі і дазваляюць ажыццявіць фанемную класіфікацыю. У доктарскай дысертацыі А. І. Падлужнага «Фанетычная сістэма беларускай мовы» (1981) упершыню ў беларускім мовазнаўстве прыведзены атрыманыя эксперыментальным шляхам звесткі пра акустычную будову маўлення і асаблівасці яго ўспрымання, зроблена іерархічная класіфікацыя акустычных прыкмет маўленчага сігналу, устаноўлена сегментная структура беларускага маўлення і прапанавана акустычная класіфікацыя гукаў на аснове гэтай структуры. Пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле А. І. Падлужнага праведзены буйныя даследаванні фанетычнай сістэмы беларускай мовы, вынікі якіх абагульнены ў манаграфіях «Фанетыка слова ў беларускай мове» (1983), «Фанетыка беларускай літаратурнай мовы» (1989), а таксама ў шэрагу артыкулаў, прысвечаных тэарэтычным праблемам фанетыкі і фаналогіі.

Значнае месца ў навуковай дзейнасці вучонага займаюць праблемы нармалізацыі беларускага літаратурнага маўлення. Ён з'яўляецца членам рэдкалегіі і адным з аўтараў нарматыўнага «Слоўніка беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (1987), а таксама аўтарам раздзелаў «Фаналогія» і «Арфаэпія» (з М. В. Бірылам) у акадэмічнай «Беларускай граматыцы» (ч. 1, 1985). А. І. Падлужны ўзначальвае работу па стварэнні новай нарматыўнай граматыкі беларускай мовы. Некалькі публікацый даследчык прысвяціў праблеме ўдасканалення сучаснага беларускага правапісу.

Шэраг прац А. І. Падлужнага адрасаваны тым, хто вывучае беларускую мову. Ён адзін з аўтараў кнігі «Беларуская мова для небеларусаў» (1973; 2 выд. 1978, на рус. мове). Трэцяе значна перапрацаванае і дапоўненае выданне гэтай кнігі выйшла пад назвай «Беларуская мова для тых, хто гаворыць па-руску» (1990, на рус. мове). А. І. Падлужны — навуковы рэдактар і адзін з аўтараў кнігі «Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі» (1987), хрэстаматыі «Вусная беларуская мова» (1990), зборніка «Пытанні культуры пісьмовай мовы» (1991). У сааўтарстве ім напісаны вучэбны дапаможнік «Фанетыка беларускай мовы» (1984), а таксама «Практыкум па фанетыцы беларускай мовы» (1989).

А. І. Падлужны — галоўны рэдактар штогодніка «Беларуская лінгвістыка», намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Весці Акадэміі навук Беларусі. Серыя грамадскіх навук», член Камісіі па фанетыцы і фаналогіі пры Міжнародным камітэце славістаў, член рабочай групы Міжнароднай камісіі па «Агульнаславянскім лінгвістычным атласе».

*Тв.*: Еще о фонематической интерпретации фонетических данных (разам з Р. Г. Піятроўскім) // Исследования по фонологии. М., 1966; Фанематычная інтэрпрэтацыя беларускага нацкного вакалізму // Беларускі лінгвістычны зборнік. Мн., 1966; Аб фанематычным прынцыпе ў беларускай арфаграфіі // Лінгвістычныя даследаванні. Мн., 1968; Аб асаблівасцях утварэння гукаў ц, с, дз, з (разам з В. М. Чэкманам) // Бел. лінгвістыка. Мн., 1972. Вып. 1; Эксперыментальна-фанетычныя даследаванні ў Беларусі (разам з К. К. Барышнікавай) // Тамсама. 1974. Вып. 5; Дыстрыбуцыйныя класы фанем у беларускай мове // Тамсама. 1983. Вып. 24; Навуковае вывучэнне беларускай мовы ў пасляваенны перыяд // Тамсама. 1985. Вып. 27; Скланенне назоўнікаў з суфіксам -ін- // Тамсама. 1986. Вып. 30; Цяжкія выпадкі правапісу е, я ў ненаціскных складах // Тамсама. 1988. Вып. 33; Состояние и перспективы терминологической работы в Белоруссии // Вопросы разработки научно-технической терминологии. Рига. 1973; Нормы беларускага літаратурнага вымаўлення // Сучасная беларуская мова: (Пытанні культуры мовы). Мн., 1973; Характер парадигматической идентификации гласных в белорусском языке // Македонский язык. 1981. № 1; Біялагічныя і сацыяльныя аспекты гукавага ладу мовы // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Беларуская мова і мовазнаўства ў савецкі перыяд // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 6; Уплыў дыялектаў на беларускае літаратурнае вымаўленне // Сб. материалов заседания Международной комиссии по фонетике и фонологии славянских языков. Сараево, 1989; Общеславянский лингвистический атлас. Сер. фонетико-грамматическая. Вып. 1. Белград, 1988; Вып. 2б. Wrocław etc., 1990 (у сааўт.); Ведаць прычыны заняпаду // Перабудова і міжнацыянальныя адносіны. Мн., 1989; Работа над памылкамі 1933-га // Бел. мова і літ. ў школе, 1991. № 3, 4.

*А. А. Лукашанец.*

## ПАДОЎЖАНЫЯ ЗЫЧНЫЯ

Падоўжаныя зычныя — зычныя гукі, якія па сваёй працягласці значна даўжэйшыя за звычайныя. Яны ўзнікаюць пры збегу аднолькавых зычных на марфемных межах (*аб + біць — аббіць*) або з'яўляюцца вынікам гістарычнага развіцця былых спалучэнняў «зычны + ьј» (*палоззе*). Збег аднолькавых зычных, адзін з якіх належыць прыстаўцы або суфіксу, а другі кораню (*з-заду, ад-даць, камен-ны, вясен-ні*) часта называюць падвоенымі зычнымі, хоць іх вымаўленне характарызуецца такой жа працягласцю, як і іншых падоўжаных. Падвоенымі могуць быць амаль усе зычныя беларускай мовы.

Падоўжаныя на месцы былых спалучэнняў «зычны + ьј» звычайна адносяцца цалкам да кораня і не падзяляюцца на два аднолькавыя гукі марфемнай мяжой. Па характары вымаўлення яны такія ж, як і падвоеныя. На месцы былых спалучэнняў «зычны + ьј» падаўжаюцца наступныя зычныя:

л': — *галлё, ралля, вяселле, наваколле, гніллю, моллю.* Формы дзеяслова *ліць* прынята вымаўляць *л'йу, л'йеш* і г. д., хоць дапускаецца і падоўжаны зычны: *л':у, л':еш*, а таксама *л'ійу, л'ійеш* і г. д.;

н': — *пытанне, жаданне, свіння, снеданне, світанне, рунню;*

з': — *рыззё, граззю, маззю.* У слове *ззяць* — 'быць адкрытым, ярка свяціць' і вытворных ад яго падоўжаны зычны ўтварыўся ў пачатку слова больш складаным шляхам, бо тут зліліся два словы *зияти* — 'быць адкрытым' і *сияти* — 'ярка свяціць';

с': — *калоссе, кассё, рыссю, Палессе, воссю;*

дз': — *суддзя, разводдзе;*

ц': — *смецце, выццё, сваццця, трыццаццю;*

ж: — *збожжа, бездарожжа, падарожжа, замужжа;*

ш: — *узвышша, зацішша, мышшу, удушша;*

ч: — *ноччу, ламачча, запечча, зарэчча.*

У радзе выпадкаў падаўжэнне не звязана са спалучэннямі «зычны + + ьј». У слове *ссаць* падаўжэнне *с* развілося ў выніку выпадзення рэдукаванага ъ у корані. З падзеннем рэдукаваных звязана і ўзнікненне падоўжанага *н* у суфіксе *-енн-: страшэнны, здаравенны.* У слове *міккі* падаўжэнне *к* развілося таксама пасля падзення рэдукаваных у выніку асіміляцыйных працэсаў. Складаныя фанетычныя працэсы прывялі да ўтварэння падоўжанага *н'* у слове *сёння (сего дьня→сегодня→сёдня → сёння).*

Ужыванне падоўжаных зычных у сучаснай мове цесна звязана з тэматычнымі і граматычнымі разрадамі лексікі і некаторымі граматычнымі формамі слоў: у назоўніках ніякага роду, якія абазначаюць зборныя паняцці *(палоззе, рыззё, бадылле, скулле, суквецце, гнілле, суччa)*; у аддзеяслоўных назоўніках, якія прадстаўлены двума тыпамі — з падоўжаным *н': (праўленне, кіраванне, адыманне, складанне)* і з падоўжаным *ц': (піццё, ліццё, распяцце)*; у прыставачных назоўніках, якія абазначаюць месца *(прыбярэжжа, узлессе, узвышша, наваколле)*; у складаных назоўніках і некаторых прыставачных з адценнем зборнасці *(стагоддзе, беззямелле, бязлессе)*; у назоўніках, утвораных ад прыметнікаў з розным адцягненым значэннем *(багацце, прыволле, вяселле, ранне)*; у назоўніках жаночага роду, часта суадносных з назоўнікамі мужчынскага роду *(бягуння, пападдзя, сваццця, Наталля)*; у некаторых назоўніках з прадметным значэннем *(кассё, ружжо, келля, ладдзя, валлё)*; у творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам *(цішшу, граззю, зеленню, мышшу, гніллю)*; у творным склоне лічэбнікаў *(пяццю, дзесяццю, трыццаццю)*; у некаторых прыслоўях, утвораных ад назоўнікаў *(ноччу, рыссю, уваччу)*.

Паколькі падоўжаныя зычныя ўжываюцца ў абмежаваных разрадах лексікі і ў некаторых граматычных формах, іх другі элемент выконвае функцыю суфікса, што надае яму пэўную самастойнасць: *вясёлы — вяселле, груган — груганнё*, параўнайце *груганё (груганя)*. Яго самастойнасць падмацоўваецца і наяўнасцю слоў тых жа разрадаў, у якіх захаваўся былы суфікс *й (зуб'е, пер'е, узгор'е, сям'я)*, а побач з формай творнага склону з падоўжанымі зычнымі захавалася форма і з *й (кроўю, любоўю)*.

Самастойнасць другога элемента падоўжаных зычных праяўляецца і ў існаванні гістарычнага чаргавання *й* з гэтым элементам. Напрыклад, *ружжо — ружэйны*, дзе ў апошнім *й* з'яўляецца зычным утваральнай асновы, а *е* — беглым галосным, які ўзнаўляецца пад націскам. У выніку пераходу націску на канчатак у слове *ружжо е* знікае, а *й* цалкам прыпадабняецца да *ж*. Такім чынам, тут — гістарычнае чаргаванне *й — ж*. Аналагічныя адносіны выяўляюцца ў парах слоў *ліццё — ліцейны, келля — келейны, ладдзя — ладзейны, суддзя — судзейскі.* Таму ёсць падставы праводзіць і тут марфемную мяжу, падзяляючы падоўжаныя зычныя на два аднолькавыя элементы. Гэта азначае, што выдзяленне асобай групы падвоеных зычных губляе тэарэтычную аснову.

Асобную праблему складаюць формы творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на зычны і колькасных лічэбнікаў. Адносна падоўжаных зычных у гэтых формах існуюць два пункты гледжання. Згодна з адным з іх, яны характарызуюцца канчаткам *-у* і чаргаваннем «зычны — падоўжаны зычны». У такім выпадку марфемная мяжа праходзіць пасля падоўжанага зычнага: *гол':-у, граз':-у, трыццац':-у.* Другі пункт гледжання прымае пад увагу агульнапрынятае вызначэнне канчатка як зменнай часткі слова, якая паказвае на яго сінтаксічную сувязь з іншымі словамі. Калі ўлічыць гэта, то лёгка ўстанавіць, што ў формах *ноччу, цішшу, голлю, трыццаццю* нязменнай часткай з'яўляецца *ноч-, ціш-, гол'-, трыццац'-*, а падзел на марфемы будзе *ноч-чу, ціш-шу, гол-лю, трыццац-цю.* Тут атрымліваюцца канчаткі, аналагічныя канчаткам назоўнікаў гэтага тыпу скланення, аснова якіх заканчваецца на губны зычны і *р: глыб — глыб'-ю (глыб-йу), шыр — шыр'-ю (шыр-йу).* Існаванне ў гэтых формах канчатка, у склад якога не ўваходзіць зычны *косць — косц-ю (кос'ц'-у), шэсць — шасц-ю (шас'ц'-у)*, як і канчатка *-йу* не дае падставы прыняць адзінае рашэнне. Гэта азначае, што ў такім выпадку аднолькава магчымы марфемны падзел *голл-ю* і *гол-лю, пяцц-ю* і *пяц-цю.*

Паколькі прыслоўі тыпу *рыссю, ноччу* ўзыходзяць да форм творнага склону, іх марфемны падзел таксама не з'яўляецца адзіным, г. зн. магчыма *ночч-у* і *ноч-чу, рысс-ю* і *рыс-сю.*

У адзінкавых словах *(ззяць, сёння)* падоўжаныя зычныя належаць адной марфеме.

*Літ.*: Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984; Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі. Мн., 1987. *А. І. Падлужны.*

## ПАЗІЦЫЙНЫЯ ЗМЕНЫ ГУКАЎ

Гукі ў мове функцыяніруюць не ізалявана, а ў моўнай плыні — у спалучэнні з іншымі гукамі ў складзе значымых моўных адзінак (марфем, слоў, словазлучэнняў і інш.). У моўнай плыні галосныя і зычныя могуць знаходзіцца ў самых разнастайных фанетычных становішчах. Так, яны могуць быць у пачатку, сярэдзіне ці канцы слова, у націскным ці ненаціскным складзе; суседнімі гукамі ў галосных могуць быць цвёрдыя або мяккія зычныя; зычныя, у сваю чаргу, могуць быць перад галоснымі ці перад іншымі зычнымі — шумнымі ці санорнымі, цвёрдымі або мяккімі і г. д. Фанетычнае становішча гукаў прынята называць іх фанетычнай пазіцыяй. Няма такога гука ў моўнай плыні, які не знаходзіўся б у якойнебудзь пазіцыі.

У адных пазіцыях гукі не змяняюцца, іх якасці праяўляюцца ярка і выразна. Гэтыя пазіцыі называюцца моцнымі. У моцных пазіцыях адрозніваецца самая большая колькасць галосных або зычных гукаў. Моцнай пазіцыяй для галосных у беларускай літаратурнай мове з'яўляецца становішча іх пад націскам, дзе выразна вымаўляюцца ўсе шэсць галосных гукаў: *сам, сом, сум, сіні, сын, сена.* Для зычных моцная пазіцыя — становішча перад галоснымі. У гэтай пазіцыі могуць быць усе зычныя: глухія, звонкія і санорныя, цвёрдыя і мяккія, свісцячыя і шыпячыя і г. д. (параўнайце, напрыклад, перад галосным [а]: *[б]ар — [п]ара — [ж]ар — [м]ара — [с'а]дзь* і г. д.).

У іншых жа пазіцыях, якія называюцца слабымі, пэўныя якасці гукаў праяўляюцца менш выразна або зусім змяняюцца. Напрыклад, у ненаціскным становішчы, якое з'яўляецца слабым для галосных у беларускай літаратурнай мове, гукі [а], [і], [ы], [у] становяцца больш кароткімі, чым пад націскам: *с[а]д — с[а]дóўнік, [н'і]зка — [н'і]зкавáты, р[ы]ба — р[ы]бáк, л[у]г — л[у]гавы́;* а галосныя [о], [э] зусім змяняюць сваю якасць: яны супадаюць у гуку [а] пасля цвёрдых зычных ва ўсіх ненаціскных складах: *д[о]м — д[а]мы́, г[ó]лас — г[а]ласавáць, р[э́]кі — р[а]кá*, а пасля мяккіх зычных — у першым пераднаціскным складзе: *[с'ó]лы — [с'а]лó, [л'э]с — [л'а]снíк*, але *[л'э]снічóўка.*

Найбольш значныя змены зычных у беларускай літаратурнай мове адбываюцца пры спалучэнні іх у моўнай плыні паміж сабой. Напрыклад, прыназоўнік *з*, які выразна вымаўляецца перад назоўнікамі з пачатковым галосным (параўнайце: *[з-А]лесам,*

моцная пазіцыя для цвердага звонкага зычнага [з]), зусім інакш сябе паводзіць у спалучэнні з зычнымі гукамі: *[з'-л']ямпай*, *[ж-Ж]эняй*, *[ш-ч]алавекам*, *[с-х]лебам*, *[с'-п']есняй*. Прыназоўнік адзін і той жа, але гучыць па-рознаму. Змяняецца ён пад уздзеяннем суседніх гукаў, якія як бы камандуюць зычным, а ён ім падпарадкоўваецца. Такія змены гукаў, якія адбываюцца пад уплывам фанетычнай пазіцыі, называюцца пазіцыйнымі зменамі. Яны з'яўляюцца, як правіла, вынікам пэўных фанетычных працэсаў, такіх, як асіміляцыя (калі размова ідзе аб прыпадабненні гукаў аднаго класа — зычных да зычных ці галосных да галосных), акамадацыя (калі маецца на ўвазе ўзаемадзеянне паміж галоснымі і зычнымі), рэдукцыя (скарачэнне, аслабленне вымаўлення гука пад уплывам фанетычнай пазіцыі) і інш. (гл. **Фанетычныя працэсы**). Але амаль што ва ўсіх гэтых выпадках узнікаюць такія адносіны паміж гукамі, якія з пункту погляду сучаснага стану мовы маюць характар жывых фанетычных законаў, найперш законаў чаргавання. Пазіцыйныя змены часта праяўляюцца ў выглядзе чаргавання гукаў, гэта значыць, што гукі адной і той жа марфемы пры слова- і формазмяненні могуць трапляць з моцнай пазіцыі ў слабую і наадварот. У выніку адна і тая ж марфема пры змяненні ці ўтварэнні слоў можа мець розны гукавы выгляд. Напрыклад, у формах слова *мода — мод — модзе* корань адзін і той жа, але вымаўляем то [д], то [т], то [дз']. З'яўленне гэтых гукаў абумоўлена фанетычнай пазіцыяй: на канцы слова, паводле законаў беларускай фанетыкі, магчымы толькі глухія (слабая пазіцыя для парных звонкіх), таму звонкі [д] заканамерна замяняецца глухім парным [т], а перад галосным пярэдняга рада [э] (слабая пазіцыя для парных цвёрдых) ён змяняецца адпаведным парным мяккім [дз']. Такая заканамерная змена гукаў, якая адбываецца ў якой-небудзь пазіцыі і не ведае выключэння ў пэўнай моўнай сістэме, называецца пазіцыйным чаргаваннем.

Пазіцыйныя чаргаванні адбываюцца ў строга акрэсленых фанетычных умовах і маюць абавязковы характар для ўсіх носьбітаў мовы. Менавіта яны ў многім вызначаюць спецыфіку фанетычнай сістэмы мовы. Веданне іх неабходна як для засваення нормаў літаратурнага вымаўлення, бо чаргаванні адлюстроўваюцца ў правілах вымаўлення, так і для разумення прынцыпаў пабудовы арфаграфічнай сістэмы. Справа ў тым, што адлюстраванне на пісьме пазіцыйных чаргаванняў характарызуе правапіс, у аснове якога ляжыць фанетычны прынцып, а неадлюстраванне іх на пісьме ўласціва для арфаграфіі, пабудаванай на фанематычным ці, інакш, фанемным, фаналагічным прынцыпе (традыцыйна яго называюць марфалагічным).

У беларускай літаратурнай мове пазіцыйныя чаргаванні галосных, абумоўленыя пазіцыяй галоснага адносна месца націску і характарам папярэдняга зычнага (цвёрдага ці мяккага), замацаваны ў правілах арфаэпіі (гл. **Арфаэпічныя нормы**) і перадаюцца на пісьме, што і выражаецца ў формулах акання і якання (параўнайце: *воды — вада, жоўты — жаўцець, лес — лясы*).

Пазіцыйныя чаргаванні зычных ахопліваюць у беларускай літаратурнай мове ўсе суадносныя гукі: 1) звонкія — глухія (перад глухімі і на канцы слоў): *ка[з]аць — ка[с]ка, мара[з]ы — маро[с]*; глухія — звонкія (перад звонкімі): *мала[ц']іць — мала[дз']ба*; 2) цвёрдыя — мяккія (перад галосным [э]): *ры[б]а — ры[б'э]*, *зі[м]а — зі[м'э]*, а таксама зубныя [з], [с], [ц], [дз], [н] перад адпаведнымі парнымі мяккімі зубнымі і губнымі: *[д]ва — [дз'в]е*, *[с]паць — [с'п']іць*, *ку[с]т — ку[с'ц']ік*; 3) гукі, якія адрозніваюцца па месцы і спосабе ўтварэння. Гэтае чаргаванне датычыцца толькі нямногіх гукаў: свісцячыя [з], [с] чаргуюцца з шыпячымі [ж], [ш] (перад шыпячымі): *пака[з]аць — пака[ш]чык* (чаргаванне па месцы ўтварэння); выбухныя [д], [т] чаргуюцца з афрыкатамі [ч], [дж]: *лё[т]аць — лё[т]чык, а[д]даць — а[дж]жаць* і з афрыкатамі [ц], [дз]: *а[ц]сыпаць, а[дз]званіць* — чаргаванне па спосабе ўтварэння; 4) чаргуюцца таксама ў беларускай мове санорныя [в], [в'] з [ў] (пасля галосных перад зычным і на канцы слоў): *гала[в]а — гало[ў]ка — гало[ў]*.

Усе пазіцыйныя чаргаванні зычных адлюстроўваюцца ў правілах літаратурнага вымаўлення, але на пісьме большасць з іх не перадаецца, гэта значыць зычныя гукі слабых пазіцый перадаюцца на пісьме без апоры на вымаўленне. Выключэнне складаюць чаргаванне [в, в'] — [ў], чаргаванне звонкіх — глухіх у прыстаўках на *з, с* і некаторыя іншыя выпадкі.

Акрамя разгледжаных відаў фанетычных змен, існуюць і іншыя, напрыклад сцяжэнне гукаў на стыку марфем, спрашчэнне груп зычных, развіццё прыстаўных гукаў і г. д. Многія з іх таксама маюць асіміляцыйную аснову, але ў пазіцыйныя чаргаванні гэтыя змены, як правіла, не выліваюцца.

*Літ.*: Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; Камароўскі Я. М., Сямешка Л. І. Сучасная беларуская мова: Фанетыка і фаналогія. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Мн., 1985; Фанетыка слова ў беларускай мове. Мн., 1983.

*Л. І. Сямешка.*

## ПАЗНАННЕ І МОВА

Мова — галоўны сродак, з дапамогай якога ажыццяўляецца пазнанне. Развіццё чалавецтва адбываецца такім чынам, што кожнае папярэдняе пакаленне перадае наступнаму свае веды і вопыт у першую чаргу праз мову. Гэта выключае цяжкі і доўгі шлях адкрыцця адных і тых законаў рознымі пакаленнямі, папярэджвае паўтарэнне многіх памылак у працэсах пазнання. Чалавецтва засвойвае набытыя веды, пашырае і паглыбляе іх, збірае новыя. Тым самым пазнавальны працэс робіцца незваротным і паскораным. Мова служыць магутным, эфектыўным інструментам самога пазнання, грунтам асноўных катэгорый мыслення. Развіццё мыслення ад канкрэтнага і нагляднага да абстрактнага і высокаадцягненага як у асобнага чалавека, так і ў чалавецтва стала магчымым дзякуючы членападзельнаму, сістэмнаму і адцягненаму характару мовы, праз якую мы ўспрымаем рэчаіснасць і звесткі пра яе ў расчлянёным выглядзе, у значнай меры раскласіфікаванымі і абагульненымі. Разам з мовай мы авалодваем і асноўнымі прыёмамі лагічнага мыслення, здольны рабіць правільныя вывады нават у тых выпадках, калі нам невядомы дакладны змест адпаведных фактаў. Напрыклад, з двух сказаў *Усе глызды з'яўляюцца макатамі. Гэты катур з'яўляецца глыздам* няцяжка зрабіць правільны вывад *Значыць, гэты катур з'яўляецца макатам*, хоць у нашым вопыце адсутнічаюць паняцці аб глыздах, макатах і катурах.

Веды групуюцца і абагульняюцца з дапамогаю мовы, якая яшчэ і забяспечвае іх праверку, апрацоўку і прымяненне ў новых абставінах. Валоданне мовай дазволіла чалавеку выйсці за межы непасрэднага ўспрымання рэчаіснасці органамі пачуццяў, дало магчымасць вывучаць навакольны свет праз усе звесткі аб ім, зафіксаваныя на пісьме (кнігі, часопісы, газеты і да т. п.). Псіхалагічныя эксперыменты паказалі, што пісьменныя людзі значна часцей за непісьменных разважаюць пра прадметы і падзеі, якія знаходзяцца па-за межамі сітуацыі зносін. Усе працэсы пазнання звязаны з мысліцельнымі аперацыямі аналізу (расчляненне цэлага на часткі) і сінтэзу (звядзенне выдзеленых частак у адно цэлае) і канкрэтна адлюстроўваюцца ў формах мовы. Выдзяленне ў рэчаіснасці тых або іншых частак фіксуецца ў мове словамі. Кожнае знамянальнае слова і вылучае адпаведны прадмет і прадстаўляе яго ў абагульненым, сінтэтычным выглядзе (словы *кніга, дрэва, чалавек* і г. д. абазначаюць у канкрэтнай сітуацыі пэўны прадмет, а ўвогуле і ўсе адпаведныя прадметы цалкам, гэта значыць усе кнігі, дрэвы, усіх людзей).

З дапамогай граматычных правіл словы арганізуюцца ў сказы, таму магчыма пабудова бясконцай колькасці моўных выказванняў пра рэчаіснасць, пра нашы думкі і веды. Мова дае магчымасць спачатку знаёміцца з абстрактнымі ўяўленнямі пра розныя прадметы і з'явы, а потым удакладняць іх канкрэтнымі фактамі, жыццёвым вопытам, што значна паскарае разумовае развіццё чалавека.

У беларускай мове пры размеркаванні слоў па часцінах мовы факты рэчаіснасці прадстаўлены як прадметы (назоўнікі), дзеянні (дзеясловы), прыкметы (прыметнікі), прыкметы дзеянняў ці другіх прыкмет (прыслоўі). З дапамогай суфіксаў аб'ядноўваюцца ў адзін клас зборныя назоўнікі: *таварыства, юнацтва, сялянства* і г. д. (суфіксы *-ств-а, -цтв-а*); абстрактныя: *сацыялізм, маладосць, вяртанне* (суфіксы *-ізм-, -осць, -анн-е* і інш.); адзінкавыя назоўнікі: *саломіна, рабрына, рыбіна* і да т. п. (суфіксы *-ін*-а, *-ын*-а) і г. д.

Паводле вучэння І. П. Паўлава пра дзве сігнальныя сістэмы, мысленне і пазнанне на ўзроўні першай з іх па апрацоўцы інфармацыі пра знешнюю рэчаіснасць уласціва і чалавеку, і вышэйшым жывёлам. Больш складаная форма адлюстравання і пазнання навакольнага свету на ўзроўні другой сігнальнай сістэмы (сігналаў сігналаў) уласціва пераважна чалавеку, а самы універсальны ўзор гэтай сістэмы — мова — уласціва толькі чалавеку. Элементамі мыслення другой сігнальнай сістэмы служаць уяўленні і паняцці, якія ўзнікаюць ці ўзнаўляюцца ў свядомасці чалавека і пры адсутнасці саміх прадметаў. Гэтыя паняцці звязваюцца ўжо не з асобнымі прадметамі, а з цэлымі іх класамі, з незлічонай колькасцю прадметаў, з'яў, прыкмет знешняй рэчаіснасці, і тым самым робяць катэгорыі мыслення абагульняльнымі. Мова развіваецца разам з пазнаннем. У аснове развіцця нашага жыцця і грамадства ляжаць пэўныя супярэчнасці. Важным стымулам развіцця мовы служыць вырашэнне пастаяннай неадпаведнасці паміж наяўнымі яе сродкамі і патрэбамі чалавека выказаць новую думку, якая ўзнікае ў працэсах зносін і пазнання. Неадпаведнасць гэта вымушае мову мяняцца, прыстасоўвацца да новага стану мыслення, уздымае яе на ўзровень новых думак і ведаў. Узаемазалежны працэс пазнання і развіцця мовы сведчыць і пра іх адзінства, пра агульны моўна-пазнавальны працэс.

*Літ.*: Язык и мышление. М., 1967; Рейтман У. Познание и мышление. М., 1968; Соколов А. Я. Внутренняя речь и мышление. М., 1968; Панфилов В. З. Взаимоотношение языка и мышления. М., 1971; Потебня А. А. Мысль и язык // Потебня А. А. Эстетика и поэтика. М., 1976; Смысловое восприятие речевого сообщения. М., 1976; Брунер Д. Психология познания: За пределами непосредств. информации: Пер. с англ. М., 1977; Лурия А. Р. Язык и сознание. М., 1979; Шалютин С. М. Язык и мышление. М., 1980; Выготский Л. С. Мышление и речь // Выготский Л. С. Собр. соч. М., 1982.Т. 2. Проблемы общей психологии.

*Б. А. Плотнікаў.*

## «ПАКУТЫ ХРЫСТА»

«Пакуты Хрыста» — рэлігійная апакрыфічная аповесць, легенда, якая грунтуецца на евангельскім паданні аб пакутах Ісуса Хрыста, яго смерці і ўваскрэсенні. Вядомы два спісы гэтага твора. Адзін — у складзе рукапіснага зборніка канца 15 ст., які калісьці належаў заснавальніку публічнай бібліятэкі ў Варшаве І. Залускаму, а цяпер захоўваецца ў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу. У гэтым зборніку аповесць займае 38 аркушаў, тут жа змешчана «Аповесць аб трох каралях-вешчунах» і «Жыціе Аляксея, чалавека божага». Другі спіс знаходзіцца ў складзе рукапіснага зборніка 16 ст. Дзяржаўнага Гістарычнага музея ў Маскве, дзе займае аркушы 354—435.

Аповесці аб пакутах Ісуса Хрыста на лацінскай мове пад назвай «Passio Christi» у розных рэдакцыях былі папулярнымі ў сярэдневяковай Еўропе. Адна з такіх лацінскіх рэдакцый паслужыла крыніцай для польскага перакладу, які ў сваю чаргу з'явіўся асновай для беларускіх спісаў. Але беларускія спісы па зместу поўнасцю не супадаюць з вядомымі польскімі. Таму даследчыкі мяркуюць, што ў беларускага перакладчыка былі і нейкія чэшскія дапаможнікі. Вядомыя цяпер беларускія спісы ўзыходзяць да адной і той крыніцы. Мова Маскоўскага спіса больш архаізаваная, у Санкт-Пецярбургскім жа спісе жывая беларуская мова адлюстравана больш поўна і паслядоўна. Таму беларускія даследчыкі звычайна карыстаюцца Санкт-Пецярбургскім спісам.

Санкт-Пецярбургскі зборнік ужо даўно звярнуў на сябе ўвагу даследчыкаў. Я. Ф. Карскі яшчэ ў канцы 19 ст. адзначаў, што рукапіс «як па часе яго напісання і па зместу, так і па асаблівасцях мовы з'яўляецца адным з выдатнейшых помнікаў старога заходнярускага пісьменства» (Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 263). «Пакуты Хрыста», як і ўвесь зборнік, напісаны дробным паўустаўным почыркам, характэрным для 15 ст. Арфаграфія помніка традыцыйная, унаследаваная ад старажытнарускай эпохі. Трапляюцца нешматлікія выпадкі акання (*табою, тваю, кали, тагды*), зацвярдзення шыпячых (*жона, ничого, оужо, шодшо*) і некаторыя іншыя фанетычныя рысы беларускай мовы. Але ўсе такія напісанні вельмі далёкія ад арфаграфічнай нормы, яны толькі сведчаць пра беларускае паходжанне перакладчыка ці перапісчыка. Помнік вылучаецца параўнальна рэдкім ужываннем літары ѣ, якая часам захоўваецца ў каранях некаторых слоў (*дѣло, лѣто, свѣтъ, терпѣти*) і зусім не ўжываецца ў канчатках. Літарай ѡ абазначаецца пачатковы каранёвы гук [о] (*ѡгородъ, ѡцеть, прещстрый*), у іншых пазіцыях ужываецца *о* (*болото, голова*). Для абазначэння гука [у] ужываецца пераважна дыграф [оу] (*гоукоу, доушоу, моукоу, моушоу*), лігатура ȣ(«ук») выкарыстоўваецца зусім рэдка (*глȣбокость, смȣтокъ*). Выбухны гук [г] абазначаецца спалучэннем *кг*, штоназіраецца ў запазычаных словах, іншамоўных імёнах і геаграфічных назвах (*кгвалтъ, фикгоура, кгалилею, лонкгинъ*).

Граматычны лад помніка побач з традыцыйнымі архаічнымі рысамі шырока адлюстроўвае і шматлікія новыя з'явы. Архаічнай рысай трэба лічыць ужыванне канчатка *-ію* ў творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду былых асноў на *-і* (*болестію, боязнію, горкостію, жалостію, моцію, смертію*). Стылістычнай асаблівасцю помніка з'яўляецца частае ўжыванне ў дыялагічнай мове клічных форм назоўнікаў са спецыяльнымі канчаткамі (*бедникоу, злодею, королю, мистроу, приятелю, сыноу, госпожо, девко, жоно, матко, панно, потехо*). У творным склоне множнага ліку ў назоўніках мужчынскага роду часта ўжываецца новы канчатак *-ми* на месцы ранейшага *-ы, -и* (*апостолми, гвоздми, мечми, перстьми, ретезми, ритерми, рожайми*). Несумненна пад польскім уплывам у назоўніках мужчынскага роду давальнага склону адзіночнага ліку ўжываецца канчатак *-ови/-еви*, у старажытнасці ўласцівы невялікаму колу назоўнікаў (*бискоупови, волкови, королеви, послови, цесареви*). Гэты канчатак асабліва часта сустракаецца ва ўласных імёнах людзей (*адамови, малхоушови, михайлови, петрови, пилатови*). Падобнае ж паходжанне мае і канчатак *-ове/-еве* ў назоўніках мужчынскага роду назоўнага склону множнага ліку (*ангелове, апостолове, бесове, докторове, мистрове, моужеве, послове, оучневе*). З польскім уплывам трэба звязваць і формы назоўнікаў мужчынскага роду множнага ліку з асновай на заднеязычныя са змяненнем іх у свісцячыя (*законници, писменници, чародѣйници*).

Помнік вылучаецца паслядоўным ужываннем канчатка *-ого/-его* ў родным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду

*(живого, лихого, милого, верхнего).* Царкоўнаславянскі канчатак *-аго/-ѧго*, ужывальны ў беларускіх помніках 16 ст., у «Пакутах Хрыста» поўнасцю адсутнічае. У парадыгме прыметніка выдзяляюцца формы назоўнага склону множнага ліку з уніфікаваным канчаткам *-ые* для ўсіх трох родаў *(марные пѣнѧзи, болестные ѡчи, грешные роуки).*

Суіснаванне моўных сродкаў рознага паходжання асабліва выразна выяўляецца ў сістэме дзеяслова, разгорнутая парадыгма якога дапускала выкарыстанне розных элементаў. Помніку зусім невядомы новыя інфінітывы на *-ть*, тут паслядоўна захоўваюцца традыцыйныя формы на *-ти (быти, дати, забити, пити, терпѣти, чинити).* Формы 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга часу абодвух спражэнняў маюць мяккі канчатак *-ть (говорить, живеть, зоветь, можеть, хочеть, бьють, рекоуть).* Мяккі канчатак трэба бачыць таксама і ў формах, дзе канцавое *-т* вынесена над радок: *зове$^{т}$, хоче$^{т}$, чини$^{т}$, кажоу$^{т}$, могоу$^{т}$.* У помніку зусім няма форм аорыста і імперфекта. Асноўнай формай выражэння прошлага часу служыць перфект. Пры гэтым формы перфекта 1-й і 2-й асобы абодвух лікаў маюць у сваім складзе дапаможны дзеяслоў-звязку, які абазначае асобу *(говори$^{л}$ есми, нашо$^{л}$ есми, заби$^{л}$ еси, прода$^{л}$ еси, ведали есмо, ждали есмо, видели есте, чоули есте).* У 1-й асобе адзіночнага ліку побач са звязкай новага ўтварэння *есми* ўжываецца і старая форма *есмь.* У 3-й асобе абодвух лікаў перфект ужываецца без звязкі, паколькі суб'ект дзеяння тут заўсёды выражаецца назоўнікам ці асабовым займеннікам. Дзеепрыметнікі ў складзе перфекта ад дзеясловаў з асновай на заднеязычныя *г, к* у формах адзіночнага ліку захоўваюць канцавое *-лъ (моглъ, ѡблеклъ, побеглъ, принеслъ, реклъ, оумерлъ).* Тут таксама адлюстраваўся польскі ўплыў, бо ў дзелавым пісьменстве гэтага часу такія формы ўжываліся без *-лъ (принесъ, рекъ, умеръ).* У помніку ўжываецца таксама і плюсквамперфект, рэшткі якога захоўваюцца і ў сучаснай беларускай мове *(пришол был, стомилсѧ был, сошлисѧ были).* У 1-й асобе абодвух лікаў плюсквамперфект таксама ўжываецца са звязкай *(положил есми был, замоутилисе есмо были).*

Стракаты малюнак маюць формы 1-й асобы множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу, дзе фактычна ўжываюцца канчаткі трох тыпаў: формы са старажытным канчаткам *-мъ,* які ўласцівы і большай частцы сучасных беларускіх гаворак *(боудемъ, вѣдаемъ, хочемъ);* формы з канчаткам *-мо (вѣдаемо, знаемо, пошлімо, оувідъимо);* формы з польскім канчаткам *-мы (боудемы, видимы, говоримы, держимы, можемы, пошлемы, просимы, хочемы).* Канчатак *-мы* ўжываецца і ў формах загаднага ладу *(дѧкоуймы, жалоуймы, полецьмы).* У помніку ўжываюцца формы будучага часу двух тыпаў: утвораныя шляхам спалучэння інфінітыва з дапаможным дзеясловам *быти* ў адпаведнай асобе і ліку *(боудоу чинити, боудеш мети, боудемы покоутовати);* утвораныя спалучэннем дзеепрыметніка на *-л* з дапаможным дзеясловам *быти (боудеть проклѧ$^{л}$, боудете хотели).* Вытокам гэтых апошніх форм з'явілася польская мова. Таксама двух тыпаў ужываюцца і формы загаднага ладу: архаічныя формы з ненаціскным канчаткам *-и* выкарыстоўваюцца ў зваротах узнёслага характару *(боуди, не плачи, потеши, рачи),* у нейтральных жа кантэкстах без стылістычнай нагрузкі ўжываюцца новыя народныя формы без канцавога *-и (збавъ, престань, оучинь).* Дваякія таксама і формы 2-й асобы множнага ліку: з уніфікаваным для абодвух спражэнняў канчаткам *-ете (возмете, пойдете, чинете)* і з абагульненым канчаткам *-ите (возмите, верните, пойдите, седите, соудите).* Тут адлюстравалася неаднолькавае развіццё гэтых форм у беларускіх народных гаворках.

Помнік узнік у эпоху, калі ў беларускай пісьмовай мове царкоўнаславянскія дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу на *-щ-* выцясняліся адпаведнымі беларускімі формамі на *-ч-,* з аднаго боку, і калі іменныя формы дзеепрыметнікаў у пэўных сінтаксічных умовах ператвараліся ў дзеепрыслоўі. У сувязі з гэтым агульны малюнак дзеепрыметнікаў у помніку вельмі стракаты. Тут яшчэ захоўваюцца архаічныя формы мужчынскага роду тыпу *боѫсе, боуда, грелсѧ, говорѧ, држа, носѧ,* напрыклад: *бы$^{л}$ же симо$^{н}$ петръ стоѫ і грелсѧ.* Ва ўскосных склонах такія дзеепрыметнікі ўскладняюцца суфіксамі з фармантам *-щ-* і адпаведнымі канчаткамі: *боудоущи$^{м}$, вѣроующи$^{х}$, живоущими, идоущи$^{х}$, хотѧщи$^{х}$.* Аднак у помніку відавочна пераважаюць дзеепрыметнікі з беларускім фармантам *-ч- (висѧчего, говорѧчего, поведаючого, седѧчого, оумираючего, даваючи$^{х}$, спѧчи$^{х}$, стоѫчи$^{х}$* і г. д.). У якасці асноўнай нормы выступаюць іменныя формы назоўнага склону множнага ліку на *-че (бачаче, гледѧче, держаче, ждоуче, молчаче, просѧче, рекоуче, хотѧче).* Напрыклад: *стоѧли здалека гледѧче на ни$^{х}$ видѧче ка$^{к}$ веселѧтсе хвалѧче бога.* Старыя формы жаночага роду на *-чи* пачалі ўжывацца і для іншых родаў і, такім чынам, набылі значэнне дзеепрыслоўяў: *бачоучи, ведаючи, жадаючи, плачоучи, просѧчи, рекоучи.* У такой жа функцыі выступаюць і формы прошлага часу тыпу *взѧвши, падши, оувидевши.*

Аснову слоўнікавага складу помніка ўтварае агульнаславянская лексіка розных семантычных разрадаў, якая ў адпаведным фанетычным абліччы захоўваецца і ў іншых славянскіх мовах. Гэта назоўнікі *жона, моужь, посолъ, дѣло, доуша, законъ, лѣто, моука, свѣтъ, смерть,* дзеясловы *бiти, быти, видети, говорити, дати, жити, знати, казати, просити, хотети, чинити* і г. д. Такая лексіка характэрна і для іншых тагачасных беларускіх пісьмовых помнікаў. Але ў «Пакутах Хрыста» шырока адлюстраваны і словы рознага паходжання, якія сталі спецыфічнымі для беларускай мовы: назоўнікі *гоукъ, кривда, кроплѧ, личба, матка, местце, надеѫ, ѡвечка, ѡцеть, помста, смоутокъ, оучень,* дзеясловы *бачити, досѧгноути, забити, загиноути, заховати, мовити, ѡпрѧноути, покоутовати, привитати, свѣтати* і інш. Лексіка гэтага тыпу якраз і надае тэксту выразную беларускую афарбоўку. Спецыфічнасць зместу помніка заключаецца ў тым, што тут адлюстравана апісанне псіхічнага стану людзей, іх душэўна-эмацыянальных перажыванняў. Таму ў помніку вельмі слаба адлюстравана бытавая лексіка тыпу назваў прадметаў хатняга ўжытку, ежы, вопраткі, прылад працы і г. д. З другога боку, тут шмат абстрактнай лексікі розных семантычных разрадаў і розных словаўтваральных мадэлей. Значнае месца сярод іх займаюць абстрактныя назоўнікі са значэннем якасці, утвораныя ад якасных прыметнікаў пры дапамозе суфікса *-ость (великость, глубокость, горкость, льстивость, молодость, ѡстрость, покорность, проудкость, ровность, светлость, солодкость, таемность, темность, тихость, хитрость, ѫсность).*

«Пакуты Хрыста». 15 ст. Ліст 36(б). Фрагмент.

Прыкметны разрад складаюць таксама назоўнікі са значэннем дзеяння, утвораныя ад асноў дзеясловаў пры дапамозе суфікса *-ніе (боленіе, виденіе, дрыжаніе, захованіе, ѡбецаніе, ѡсоуженіе, панованіе, плаканіе, потешеніе, пытаніе, сказаніе, оустаніе)*. Вылучаецца таксама пэўная колькасць прыметнікаў абсалютнай найвышэйшай ступені параўнання з прыстаўкай *пре- (прегоркій, прелихий, премилый, преневѣрный, пренечистый, преѡкрѷтный, преѡстрый, препокорный, пресилный, пресласный, пресмоутный, претѧжкій)*. Асобны словаўтваральны тып складаюць назвы асоб, утвораныя на польскі ўзор з дапамогай суфікса *-ца (вадца* 'паклёпнік', *витѧжца* 'пераможац', *выдавца, розбойца, розделца, розмножца, творца)*. Гэты словаўтваральны тып атрымаў значнае пашырэнне ў пазнейшым беларускім пісьменстве.

Паміж іншых помнікаў рэлігійнага прызначэння канца 15 ст. «Пакуты Хрыста» вылучаюцца тым, што тут вельмі мала царкоўнаславянізмаў. У помніку адсутнічаюць царкоўнаславянскія няпоўнагалосныя формы тыпу *глава, градъ, злато.* Пануюць тут беларускія поўнагалосныя адпаведнікі *болото, голова, дерево, колодезь, ѡгородъ, сторожъ, боронити, соромотити, стеречи.* Але лексіка гэтага разраду дапаўняецца і няпоўнагалоснымі формамі польскага ўтварэння, у сувязі з чым некаторыя лексемы ўжываюцца ў двух варыянтах: *здоровье — здровье, король — кроль, оумерети — оумрети.*

Твор быў перакладзены ў каталіцкім асяроддзі з польскіх спісаў, і гэтым тлумачыцца наяўнасць у тэксце значнай колькасці лексічных паланізмаў. Тут, з аднаго боку, трапляюцца польскія словы, якія ўжо раней замацаваліся ў беларускім пісьменстве: назоўнікі *бискоупъ* 'епіскап', *кгвалтъ, маистатъ* 'трон', *мистръ* 'правіцель', *моць, рада, ратоушъ, рожай* 'род', *скарбъ,* дзеясловы *дѧковати, ѡбецати, ѡферовати* і інш. Разам з тым у помніку ёсць многа польскіх слоў, ужытых упершыню: назоўнікі *крижь, ланцюхъ, лотръ* 'бандыт', *ѡкроутникъ* 'жорсткі чалавек', *панна, цибоулѧ, цнота, члонокъ,* прыметнікі *валечный* 'мужны, адважны', *велебный* 'прападобны', *моцный, трудоватый* 'пракажоны'; дзеясловы *жегнати* 'хрысціць', *малевати, пановати, оутпити* 'сумнявацца'. Такая лексіка, відаць, ужывалася ў гутарковай мове прыхільнікаў каталіцкага веравызнання, і ўвядзенне яе ў пісьмовы ўжытак сведчыць, што перакладчык добра адчуваў шляхі ўзбагачэння слоўнікавага складу беларускага пісьменства. У помніку таксама фактычна ўпершыню ўжыты і некаторыя навукова-кніжныя тэрміны *(апокрифъ, хисториꙗ, докторъ, капитоулюмъ* 'раздел кнігі', *фикгоура)*. Наяўнасць у «Пакутах Хрыста» моўных рыс рознага паходжання не дае магчымасці катэгарычна сцвярджаць, якія мясцовыя беларускія гаворкі ляглі ў аснову помніка. У ім адлюстраваны пераважна агульнабеларускія моўныя сродкі, якія ўжываліся ў іншых жанрах тагачаснага беларускага пісьменства. Разам з тым тут выкарыстаны і шматлікія новыя сродкі, якія замацаваліся ў пазнейшым беларускім пісьменстве. Галоўнае ж значэнне твора ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы ў тым, што ён адкрыў дарогу беларускай мове ў рэлігійную сферу.

Помнік выдадзены М. М. Тупікавым у серыі «Помнікі старажытнага пісьменства і мастацтва» (т. 140, 1901). *А. І. Жураўскі.*

## ПАЛЕАГРАФІЯ

Палеаграфія (грэч. palaiós старажытны+gráphō пішу), дапаможная гісторыка-філалагічная дысцыпліна, якая вывучае прыкметы старажытных пісьмовых помнікаў з мэтай вызначыць час і месца іх стварэння, а па магчымасці і аўтарства. Аб'ектамі палеаграфіі з'яўляюцца рукапісы на папірусе, бяросце, пергаменце і паперы. Асноўнае ў палеаграфічных даследаваннях — выяўленне тыпу і спосабу пісьма, заканамернасцей і асаблівасцей выкарыстання розных форм літар і іншых пісьмовых знакаў, прынятых скарачэнняў. У палеаграфічны аналіз уваходзяць таксама пісчыя матэрыялы і прылады пісьма, вадзяныя знакі на паперы, арнаменты, мініяцюры, афармленне пераплётаў. Асобны раздзел палеаграфіі — крыптаграфія — вывучае графіку сістэм тайнапісу. Акрамя таго, існуе палеаграфія музычная, якая даследуе старажытныя сістэмы запісу музыкі, устанаўлівае прынцыпы іх расшыфроўкі.

Палеаграфічнае абследаванне старажытнага тэксту з'яўляецца першым этапам уласна гістарычнага, гісторыка-лінгвістычнага або гісторыка-літаратурнага даследаванняў, таму палеаграфія непасрэдна суадносіцца з гісторыяй, мовазнаўствам, літаратуразнаўствам. Разам з тым палеаграфія цесна звязана з дыпламатыкай, геральдыкай, сфрагістыкай, храналогіяй, тэксталогіяй, філіграналогіяй. Паводле сістэмы пісьма, алфавіта і мовы адрозніваюць палеаграфію грэчаскую, лацінскую, славянскую, арабскую, армянскую, грузінскую, кітайскую, індыйскую і інш. Славянская палеаграфія ў залежнасці ад алфавіта, якім напісаны рукапісы, падзяляецца на кірыліцкую, глаголічную і лацінскую. Усходнеславянскія старажытныя рукапісы, як правіла, напісаны кірыліцай.

Палеаграфія як навука ўзнікла ў Францыі ў пачатку 18 ст. ў межах дыпламатыкі. Яе зараджэнне і ўвядзенне тэрміна «палеаграфія» звязана з імем бенедзікцінскага манаха Б. Манфакона, які ў 1708 г. надрукаваў на лацінскай мове кнігу аб палеаграфічных асаблівасцях старажытнагрэчаскіх рукапісаў. Асабліва інтэнсіўна развівалася гэта дысцыпліна ў 19 — пачатку 20 ст. ў Германіі, Францыі і Расіі ў сувязі з падрыхтоўкай і выданнем старажытных помнікаў. Вялікая роля ў распрацоўцы славяна-кірыліцкай палеаграфіі належыць І. І.

Устаў. Урывак з гандлёвага дагавора паміж Полацкам і Рыгай. Каля 1330.

Сразнеўскаму, А. І. Сабалеўскаму, Я. Ф. Карскаму, В. М. Шчэпкіну, В. Ягічу і інш.

Пачынальнік беларускай палеаграфіі — Я. Ф. Карскі. У сваіх працах ён вызначыў асноўныя заканамернасці змен абрысаў кірыліцкіх літар у старабеларускім пісьменстве ад 14 да 17 ст. Відазмяненні літар ён разглядаў у сувязі з функцыяніраваннем на Беларусі розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма. Акрамя гэтага, Карскі прывёў багаты дакументальны матэрыял з характэрнымі ўзорамі розных жанрава-стылявых разнавіднасцей айчыннага пісьменства. Рукапісныя дакументы перыяду беларускай народнасці вывучалі таксама І. М. Даніловіч, І. І. Грыгаровіч, М. В. Доўнар-Запольскі, А. П. Сапуноў, Дз. І. Даўгяла, А. І. Жураўскі, А. К. Антановіч, Л. М. Шакун, Г. Л. Харашкевіч і інш. На аснове назіранняў над многімі старажытнымі тэкстамі былі вызначаны характэрныя прыкметы бытаваўшых на беларускіх землях трох асноўных тыпаў пісьма — устава, паўустава і скорапісу, зроблена прывязка іх да пэўнага часу і месца.

Самы старажытны тып пісьма — у с т а ў — у старабеларускім пісьменстве выкарыстоўваўся на працягу 14 ст. і зрэдку ў 15 ст. пераважна ў дзелавых граматах на пергаменце. У залежнасці ад пісьмовых школ і індывідуальнай манеры пісцоў меў, як і ўсякае пісьмо, розныя варыянты, аднак агульныя асаблівасці захоўваліся. Словы ва ўставе звычайна не аддзяляліся адно ад аднаго, літары пісаліся асобна, амаль перпендыкулярна ў радку і мелі формы, блізкія да геаметрычных. Скарачэнне слоў і напісанне літар над радком практыкавалася рэдка. У якасці надрадковых знакаў былі цітлы, спалучэнні кропак і знак, які нагадвае знак кароткасці ў беларускіх літар *ў* і *й*, знакамі прыпынку — кропка і двукроп'е. Знак для абазначэння тысячы /≠/ ставіўся не перад лічбай, а пасля яе. Найбольш доўга ўстаў выкарыстоўваўся ў полацкіх граматах. Беларускія граматы 2-й паловы 14 ст., напісаныя ў іншых мясцовасцях, характарызуюцца меншай акуратнасцю пісьма, драбнейшымі літарамі і наяўнасцю ў асобных літарах паўуставўных і нават скарапісных элементаў.

П а ў у с т а ў узнік у выніку паскарэння працэсу пісання на аснове ўстава і адрозніваўся ад яго меншай стройнасцю пісьма, больш дробнымі літарамі і значна большай колькасцю скарачэнняў. Як і ў іншых усходнеславянскіх пісьменствах, меў дзве разнавіднасці — старэйшы і малодшы. Старэйшы паўустаў, блізкі да ўстава, ужываўся ў дзелавых граматах канца 14 — 1-й паловы 15 ст. Малодшы паўустаў выкарыстоўваўся паралельна са скорапісам пераважна ў помніках рэлігійнай і свецкай літаратуры 2-й паловы 15—16 ст., зрэдку 17 ст. («Чэцця», «Александрыя», «Аповесць пра трох каралёў-вешчуноў» канца 15 ст., «Троя», «Псалтыр», «Арыстоцелевы вароты» 16 ст., «Хранограф» 17 ст. і інш.). У малодшым паўуставе словы пісаліся асобна (акрамя прыназоўнікаў і злучнікаў з наступным словам), літары мелі больш скарапісных элементаў, чым у старэйшым паўуставе, значна пашырылася напісанне літар над радком, пачала выкарыстоўвацца вязь. Шырока ўжываліся надрадковыя знакі — цітлы, спалучэнні кропак, рыскі, прыдыханні, паерыкі і інш. Больш разнастайнымі сталі знакі прыпынку — кропка, коска, двукроп'е, спалучэнне знакаў у канцы радкоў. Паўустаў з'явіўся ўзорам для шрыфтоў у выданнях Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, віленскіх выданнях «Граматыкі славенскай» (1596) і «Лексіса» (1596) Л. Зізанія, куцеінскім (1631) і магілёўскім (1636) выданнях «Буквара» С. Собаля і інш.

**Вадзяныя знакі на паперы выданняў Ф. Скарыны.**

**Узоры вязі: 1, 2 — Статут Вялікага княства Літоўскага 1588; 3 — «Зборнік павучанняў». Сярэдзіна 17 ст.**

С к о р а п і с развіўся з паўустава і характарызаваўся звязаным напісаннем літар у слове, большай колькасцю закругленняў. У старабеларускім дзелавым пісьменстве пачаў ужывацца ў канцы 14 ст. Ім напісаны шматлікія актавыя кнігі гарадскіх, земскіх і замкавых судоў, большая частка дакументаў Літоўскай метрыкі, найбуйнейшыя юрыдычныя помнікі старажытнасці — Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529 і 1566 гг. Асаблівага росквіту дасягнуў скорапіс у 16 — 17 ст., калі шырока пачаў выкарыстоўвацца ў свецкіх («Аповесць пра Трышчана», «Аповесць пра Баву», «Гісторыя пра Атылу», Баркалабаўскі летапіс, «Александрыя», «Троя», «Рымскі летапісец») і рэлігійных творах. На аснове скорапісу ў канцы 16 ст. створаны спецыяльны шрыфт, якім у друкарні Мамонічаў выдадзены «Трыбунал» (1586), «Статут Вялікага княства Літоўскага» (1588), «Унія» (1595) і іншыя помнікі. Беларускі скорапіс быў больш каліграфічны і зручны для чытання, чым рускі, і ў 17 ст. зрабіў на яго прыкметны ўплыў.

Акрамя названых тыпаў пісьма, на Беларусі ў 15—17 ст. выкарыстоўвалася в я з ь — старажытнае дэкаратыўнае пісьмо, пры якім літары звязаны ў непарыўны арнамент. Ёю ўпрыгожваліся тытульныя лісты і загалоўкі пераважна ў паўуставўных і скарапісных кнігах рэлігійных жанраў («Псалтыр» 16 ст., «Зборнік павучанняў» сярэдзіны 17 ст., «Пралог» 17 ст.) і зрэдку ў помніках дзелавога і свецкага пісьменства («Статут Вялікага княства Літоўскага» 1566 г., беларускі пераклад «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага). Пад уплывам рукапісаў вязь пранікла ў друкаваныя выданні Ф. Скарыны, С. Буднага, старадрукі канца 16—17 ст. («Статут Вялікага княства Літоўскага» 1588 г., «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа» 1637 г.). У беларускай вязі пераважалі элементы расліннага і жывёльнага арнаменту, у рускай — геаметрычнага.

Палеаграфічны аналіз дае большы плён, калі падмацоўваецца дадзенымі пра матэрыялы пісьма і з філіграналогіі. А такая магчымасць зараз ёсць. Важным практычным дапаможнікам у рабоце сучаснага даследчыка беларускага пісьменства з'яўляецца

2-томная праца літоўскага філігранолага Э. Лаўцявічуса «Папера ў Літве ў XV—XVIII стагоддзях» (Вільнюс, 1967). У гэтым даследаванні ўстаноўлена, што папера, якая прыйшла на змену пергаменту, пачала выкарыстоўвацца ў Вялікім княстве Літоўскім у канцы 15 ст. Была яна спачатку італьянскай вытворчасці, а потым і айчыннай. Пачынаючы з 16 ст. на Беларусі і ў Літве дзейнічала ў розныя часы больш за 40 папяровых прадпрыемстваў, у тым ліку ў Смаргоні, Гальшанах, Нясвіжы, Уздзе, Заслаўі, маёнтках Дзітва каля Ліды, Котлава каля Навагрудка, Калачы каля Вілейкі і інш. Кожнае з іх мела свае вадзяныя знакі, якія з'яўляліся маркамі вытворчасці. У гэтай працы аўтар прыводзіць каля 4300 вадзяных знакаў, што выяўлены на даўняй паперы замежнай і айчыннай вытворчасці. Тэматычны прынцып падачы вадзяных знакаў, забеспячэнне кожнага з іх парадкавым нумарам з указаннем даты і месца напісання дакумента, адкуль скапіраваны знак, дазваляе лёгка адшукваць іх у альбоме і, супаставіўшы са знакамі на рукапісе, датаваць яго з дакладнасцю да дзесяці гадоў.

Да нашага часу захавалася шмат помнікаў, напісаных на лацінскай і польскай мовах, а таксама на беларускай арабскім пісьмом. На жаль, лацінская і арабская палеаграфія на Беларусі пакуль што развіцця не атрымала.

*Літ.:* Карский Е. Ф. Славянская кирилловская палеография. Факс. выд. М., 1979; Его ж. Белорусы. Язык белорусского народа. Вып. 1 Исторический очерк звуков белорусского языка. М., 1955. *А. М. Булыка.*

## ПАНЧАНКА ПІМЕН ЕМЯЛЬЯНАВІЧ



Народны паэт Беларусі П. Е. Панчанка нарадзіўся 23 жніўня 1917 г. ў г. Талін. Скончыў педагагічныя курсы ў г. Бабруйску (1934), Мінскі настаўніцкі інстытут (1939). Працаваў настаўнікам (1934—38), пасля вайны ў рэдакцыях часопіса «Вожык», газеты «Літаратура і мастацтва». Галоўны рэдактар часопісаў «Советская Отчизна» (1954—58), «Маладосць» (1958—66), у 1966—71 гг. сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Друкуецца з 1934 г. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы 1959 г. (за паэму «Патрыятычная песня»), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы 1967 г. (за кнігу вершаў «Пры святле маланак»), Дзяржаўнай прэміі СССР 1981 г. (за зборнік «Дзе начуе жаўранак»). Ганаровы член Акадэміі навук Беларусі (1994).

«Адзін з асноўных матываў яго паэзіі,— пісаў Н. Гілевіч,— сцверджанне пачуцця нацыянальнай гордасці, сцверджанне свайго права на ўвагу і павагу з боку іншых народаў, права чалавека, для якога даражэй за ўсё на свеце — родны бацькоўскі кут, родная мова і песня» (Гілевіч Н. У гэта веру: Літ. крытыка і публіцыстыка. Мн., 1978. С. 43). Паэт добра разумее, што чалавеку найперш патрэбна самае блізкае, дарагое, без чаго нельга ні жыць, ні быць чалавекам. Таму ўвесь яго паэтычны набытак успрымаецца як гімн чалавеку, зямлі, працы, каханню: *Я веру словам простым і надзейным: // Зямля, і хлеб, і праца, і любоў* («Словы»). П. Панчанка — патрыёт роднай мовы, дасканалы знаўца яе лексічных багаццяў, шматлікіх значэнняў і адценняў сэнсу слоў. Эфектыўнае выкарыстанне полісеміі — адна з характэрных прыкмет мовы яго вершаў. Высвечваючы паасобку кожную грань шматзначнага слова, паэт выхоўвае ў чытача чуйнасць да хараства і выразнасці мовы, дапамагае глыбей пранікнуць у моўныя тонкасці. Слова *зямля*, напрыклад, у сучаснай беларускай мове мае 6 значэнняў, і ўсе яны ўжываюцца ў творах паэта, пра што сведчыць без малога сотня прыкладаў: *З акіянскага дна // Усплывае зямля* («Патрыятычная песня»); *А струмені звоняць, нібы струны, // Прагна п'е іх смяглая зямля* («Красавіцкая навальніца»); *Узрушана шаптаў ён: «Не аддам!» // Мая зямля — і я тут уладар* («Апошні хутаранін»). У гэтых кантэкстах слова *зямля* мае значэнні «суша», «глеба», «уласнасць каго-небудзь». Але найчасцей у вершах П. Панчанкі яно абазначае дзяржаву, родны край: *Зямля беларуская, кім ты прызначана // Арэнаю быць нечуваных баёў?* («Нянавісць»); *У юнацтве мы некалі перажылі // Развітанне з зямлёй і тугу па зямлі* («Размова з нашчадкамі»); *Зямля бацькоўская, святая* («Зямля бацькоў»). Са значэннем, сінанімічным да слова *зямля*, даволі часты ў паэтычным радку П. Панчанкі назоўнік *край: Жураўліны, журавінны, // Край легендаў і лясоў, // Край калгасны, край машынны, // Новай свет здзіві красой!* («Слова пра Палессе»); *Дзе ж той край залатакосы, край зялёны — // Рык ласіны, // Звон пчаліны, // Мора лёну?.. // Край чаромхі і чабору, край прасторны* («Край паэтаў»). Сакавітая мова вершаў паэта — гэта і тонкае адчуванне розных сэнсавых адценняў, і ўменне скарыстаць унутраныя (лексіка-граматычныя) і знешнія (семантыка-спалучальныя) магчымасці слова. У вершы «Хлебныя словы» паэт справядліва зазначае: *Адценне слоў — не глупства, // Ты ім не пагарджай. // Скарынка. Скіба. Луста. // Акраец. // Каравай.* Багаты жыццёвы вопыт дае магчымасць аўтару вытлумачыць сэнс слоў, даць паэтычны каментарый. *Акраец — шлях, дарога // І зайцаў хлеб лясны. // Скарынка — сум, трывога // І боль былой вайны. // А скіба — дзень вясновы // Ралля. Плугі. Сяўба.* Агульную семантыку слова *скіба* 'адрэзаны кавалак хлеба' добра падмацоўвае наступны кантэкст. Па-майстэрску смелымі асацыятыўнымі мазкамі ствараецца цэласная карціна адказнай вясновай пары аднаўлення, бо *хлеб — жыццёва аснова, працяг і барацьба. А луста — слова сытнае, // Духмянае і шчодрае. // Яно ад маці — сітнае // Ці наздравата чорнае.* Зусім іншае гучанне і ўспрыманне, калі параўнаць з папярэднім кантэкстам. *Скіба* — спалучэнне артыкуляцыйна кароткіх зычных гукаў, два з якіх — выбухныя; скандэнсаваныя наступныя радкі, дзе амаль усе словы — назоўнікі, якія даюцца як асобна аформленыя сказы. Усё тут працуе на значэнне слова *скіба* і, у сваю чаргу, гэтым значэннем вымагаецца. І ўсё рэзка кантрастуе з наступным чатырохрадкоўем. Паэт свядома адцяняе семантыку слова *луста* 'адрэзаны кавалак хлеба' — плаўны гук [л] з наступным моцным губна-губным [у] вымагаюць такога ж насычанага вымаўлення наступнага складу. *Луста* — не тоненька адрэзаны кавалак хлеба. У гэтым пераконвае і сэнсава багаты рад азначэнняў, бо гэта слова — сытнае, духмянае, шчодрае. Лагічная канцоўка верша. *І справа тут не ў ежы, // А ў смачным змесце слоў, // І ў жытнім ветры свежым, // І ў звоне каласоў.* Верш «Хлебныя словы» ўспрымаецца як шчырая споведзь паэта перад сабой і часам.

Каб запыніць увагу чытача, прымусіць яго задумацца, яшчэ раз асэнсаваць прачытанае, у некаторых вершах П. Панчанкі каламбурна сутыкаюцца два розныя значэнні аднаго і таго ж слова. Гэтым дасягаецца значны эмацыянальны эфект: *Гаворыце, што выйшлі вы з народа? // Куды? Чаму? Якой цяпер пароды? // Я са свайго*

*народа не выходзіў // І жыць да скону буду у народзе* («Жыццё маё»).

Супастаўленне ў вершы слоў з рознай, часта супрацьлеглай семантыкай — адна з адметных рыс паэзіі П. Панчанкі. Асобныя строфы, радкі такіх твораў дэкларуюць ісціны неабходныя і вечныя. Адсюль і адсутнасць у тэксце суб'екта, які ўтварае дзеянне: ён непатрэбны, сказанае — характарызуе кожнага і характэрна кожнаму. *Дрэннаму — не пакарыцца, // Добрае — не празяваць // З дробнай хлуснёй не мірыцца, // З буйнай хлуснёй ваяваць* («Мала сказаць...»); *Жыццё маё, ты — як цягнік бясконцы: // Святло і цень, // То змрок, то светласць рос* («Жыццё маё»); *Ад праўды раз адкруцішся — Няпраўдаю атруцішся* («Нешта пройдзена»).

У вершаваных творах не апошнюю ролю адыгрывае гукавое афармленне паэтычнага радка. «Мала пісаць цікава і змястоўна,— адзначаў Р. Бярозкін,— трэба яшчэ пісаць нясумна, «смачна», каб слову хацелася ў радок, да слоў-сваякоў, каб звязвала іх не толькі тэма-заданне, а яшчэ і закладзеная ў самой мове гармонія гукаў. Як у фальклоры, у з'явах так званай народнай этымалогіі. Як у Панчанкі» (Бярозкін Р. Пімен Панчанка: Крытыка-біягр. нарыс. Мн., 1968. С. 215). І сапраўды па лёгкасці і арганічнасці гучання вершы П. Панчанкі можна ставіць у адзін рад з творамі вуснай народнай творчасці. У вершы «Пад'язджаючы да Мінска» чытаем: *Якія знаёмыя назвы і словы, // Якая цудоўная родная мова! // І ўсё мілагучна для слыху майго: І звонкае «дзе» і густое «чаго»*. Тонкая назіральнасць дазволіла паэту ўлавіць і дакладна перадаць асноўныя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы: мяккасць і адкрытасць вымаўлення, артыкуляцыйную насычанасць звонкіх і галосных гукаў. Для таго, каб надаць паэтычным радкам мілагучнасць, узмацніць іх сэнсавую выразнасць, паэт часта карыстаецца прыёмам гукапісу — паўтарэння аднолькавых або падобных гукаў: *Перуны грукаталі ў прасторы пустым* («У навальніцу»); *У нас жыве ва ўсе часы // Зялёны родны гоман. // «Ушачы» — шэпчуцца лясы, // Гудуць лясы: «Бягомль»* («Петрусю Броўку»). Гул грому, звон кос, шэпт лесу і веснавое абуджэнне прыроды чуюцца ў гэтых радках дзякуючы па-майстэрску выкарыстанаму гукапісу. Рытмічную запаволенасць і мяккую далікатнасць набываюць наступныя радкі ад ужывання ў пачатку слоў плаўнага [л]: *Лечыцца трава ад спёкі ліўнямі, // Людзі ласкай лечацца людской* («Чалавечнасць»).

Знаўца мовы, П. Панчанка з поспехам карыстаецца і ўстойлівымі яе адзінкамі — фразеалагізмамі і перыфразамі. Побач з традыцыйным ужываннем гэтых вобразных сродкаў паэт пaварочвае ўстойлівыя выразы новымі гранямі, ажыўляе кантэкст: *Той славы з макавае зерне. // На грош набытку...* («Пажыць да дна»); *Па вушы, па вочы, па локці // Мяне засмактаў неспакой* («А птушкі знікаюць»). Традыцыйная ўстойлівая адзінка *Млечны Шлях* у П. Панчанкі — *журботны Млечны Шлях; Млечны Шлях маленства; бясконцы млечны шлях вачэй, жывых людскіх вачэй.* У вершы «На выгарах цёмных ваенных» паэт ужывае арыгінальную перыфразу *зямлі нашай белы настольнік,* калі гаворыць пра поле грэчкі ў «малочнай пене». А праз страфу — новы паварот: *І белы кужэльны настольнік, // Як грэчкі палетак.* Шырокае асацыятыўнае мысленне дае магчымасць паэту (і чытачу) правесці паралелі: *белы кужэльны настольнік — грэчкі палетак — зямлі нашай белы настольнік.* Ажыўленне сінтаксічнай сувязі кампанентаў фразеалагічных адзінак, ужыванне іх у тэксце з азначэннямі, акалічнасцямі, дапаўненнямі — стылістычны прыём, які таксама добра вядомы яго паэзіі: *Нават камар не падточыць носа // Пад моцны прылавак дубовы* («Беластоцкія вітрыны»).

Моўна-паэтычны пошук П. Панчанкі надзвычай ярка праяўляецца ва ўжыванні эпітэтаў — мастацкіх азначэнняў. У залежнасці ад кантэксту эпітэт у П. Панчанкі то канкрэтны, нацыянальны, бо Айчына для яго — гэта кожная рачулка і вёсачка, кожнае дрэва і птушка: *(аршанскія сосны, магілёўскія хмаркі, бярэзінскі запаведнік, Івянец ганчарны, нарачанскія дзяўчаты, трывожныя прыпяцкія балоты, белавежская сасна, палескі край туманны, ціхая вёсачка палеская, азёрны край сасновы),* то ўзнёслы, акрылены, як паэтава душа *(матыльковае поле, дзіцячы пах травы, смаліста-ягадны настой); У акенца тваё я пастукаў зязюльчыным ранкам // Пасля салаўінага вечара і перапёлчынай ночы* («У акенца тваё...»). Калі ж твор прысвечаны гістарычнаму мінуламу, багатым традыцыям роднага краю, эпітэт атрымлівае іншае гучанне: *сівы партызанскі люд, незабыўныя старыя магілы, добрыя надзейныя людзі, высокая нязменная любоў, бацькава страха, словы глыбінныя, вечная праўда, славянская душа.*

Паэт не шукае нейкіх незвычайных сродкаў і прыёмаў, ён проста добра ведае і бачыць магчымасці роднага слова і па-майстэрску карыстаецца гэтым багаццем. Метафарычны кантэкст вершаў П. Панчанкі — у добрым валоданні ўсёй гамай сэнсавых адценняў слова, у далікатным абыходжанні са словам сваім, блізкім, добра вядомым, жыццёвым: *На клёне ўжо лісткі // Сядзяць, як птушаняты* («Той напусціў туман»); *І ўся зямля, нібы прылазнік // Вясны і цёплай цішыні* («Чаканне»); *Палянка дыміцца // Пасля дажджу, // Як зялёная коўдра // Пасля гарачага праса* («Паэма майго лесу»).

У мове твораў П. Панчанкі паспяхова выкарыстоўваецца сінтаксічны прыём паўторнага, неаднаразовага ўжывання слова, прычым у кожным канкрэтным выпадку з дапамогай паўтораў ствараецца патрэбны выразны кантэкст. У вершы «Зямля бацькоў» чытаем: *А на Палессі ўсё нядробна: // Цяжкая спадчына вякоў, // Цяжкія рукі хлебаробаў, // Цяжкія сны палешукоў.* З радка ў радок тройчы ідзе мнагазначны прыметнік *цяжкі,* і кожны раз ён праяўляе іншы сэнс. У вершы «Цішыня» адзін за адным тройчы ідзе дзеяслоў *набліжацца: Тонкім голасам кнігаўкі жаляцца, // Асыпаюцца ў мох суніцы. // Набліжаецца, набліжаецца, // Набліжаецца навальніца.* Значэнне дзеяслова ў тэксце адно, але прыёмам паўтору ствараецца адчуванне непазбежнасці навальніцы, якая падступае ўсё бліжэй і бліжэй, выклікаецца пачуццё трывогі і напружанага чакання. У залежнасці ад задумы, агульнай настраёвасці верша мяняецца і спосаб выкарыстання паўтору. Так, у першым выпадку прыметнік *цяжкі* пачынае паэтычны радок і кожны раз праяўляе новы змест, у другім — дзеяслоў *набліжаецца* паўтараецца тры разы запар, што ўзмацняе семантыку кантэксту, дзеянне ўспрымаецца дынамічна. А вось у вершы «Добры настрой» субстантываваны прыметнік *галоўнае* падаецца тройчы, кожны раз у новым радку, самастойна, і сэнс гэтага слова настолькі спрасаваны, настолькі важкі, што вывад, які ідзе далей, успрымаецца як неабвержная ісціна, як неаспрэчны наказ: *І галоўнае, // Галоўнае, // Галоўнае — // Не хлусіце ні народу, ні сабе.*

Сінтаксіс П. Панчанкі — яшчэ адзін прыклад лексіка-граматычных і семантыка-спалучальных магчымасцей роднага слова. Ад правільнай формы простага двухсастаўнага сказа да складанай сінтаксічнай канструкцыі, ад розных відаў аднасастаўных сказаў да цэлых вершаў, у аснове якіх пэўны тып сінтаксічнай адзінкі. Як адзін з узораў такога ўжывання сказа можна прывесці некалькі строф з верша «Схема жыцця». Усе восем чатырохрадкоўяў верша — гэта пераважна пэўна-асабовыя сказы з адценнем абагульненасці, насычаныя дзеяннем, пунктуацыйна афармленыя: *Робім да стомы. Цягнемся. Марым. // Век здаганяем. Героямі ходзім. // Ззяем, як сонца. Чарнеем, як хмары. // Нешта губляем. Амаль не знаходзім. // Моцна кахаем. Ад шчасця заходзімся. // Рады, як чэрці. Як людзі сумуем. // Сварымся. Мірымся. І разыходзімся. // Дзён не хапае. Тыдні марнуем.*

Сапраўдны патрыёт беларускай мовы П. Панчанка не можа не змагацца

за яе чысціню. У вершы «Назвы» паэт адстойвае спрадвечныя найменні беларускіх вёсак і гарадоў, справядліва крытыкуючы паспешлівасць і неабачлівасць пры называнні новых пасёлкаў ці перайменаванні былых: *Залессе, Плёсы, Крэва, // Вайчу і Вайкавыск. // Змяніць, закрэсліць трэба! — // Здайна я чую віск. // І трубяць знойку бойдзілы, // Што Мсціж і Арахі // І Бортнікі, і Бондары // Здаваць пара ў архіў.* Гэтая ж тэма неаднаразова закранаецца і ў іншых вершах: *Нам кожнаю назвай (вялікай і дробнаю) // Патрэбна, як імем сваім даражыць* («Пра назвы»); *А ў тваім* [Беларусь] *кожным прозвішчы, // І назве паселішчаў, рэчак // І гісторыя трубіць, // І народная мудрасць жыве* («Донары»).

У кожным зборніку П. Панчанкі ёсць вершы, дзе выказваецца паэтава разуменне роднай мовы, яе ролі ў грамадстве. Аўтарская пазіцыя праяўляецца праз цэлую гаму пачуццяў ад шчырай любові да цвёрдай бескампраміснасці: *Ільняная і жытнёвая. Сялянская. // Баравая ў казачнай красе. // Старажытная. Ты самая славянская. // Светлая, як травы у расе. // Вобразная, вольная, пявучая, // Мова беларуская мая!* («Беларуская мова»); *Ці плачу я, ці пяю, // Ці размаўляю з матуляю — // Песню сваю, мову сваю // Я да грудзей прытульваю* («Родная мова»); *Я — сірата // Без маёй Беларусі, // Ад роднай мовы, // Ад роднай нацыі // Не адцураюся, // Не адракуся!* («Не адцураюся, не адракуся»).

*Літ.:* Лазарук М. Пімен Панчанка: Літ.-крыт. нарыс. Мн., 1959. Бярозкін Р. Пімен Панчанка: Крытыка-біягр. нарыс. Мн., 1968; Яго ж. Пімен Панчанка: Паэзія ваенных год // Кніга пра паэзію: Выбранае. Мн., 1974; Бечык В. Свет жывы і блізкі. Мн., 1974; Яго ж. Хваляваціа за ўсіх і ўсё... // Бечык В. Прад высокаю красою...: Літ.-крыт. арт. Мн., 1984; Гапава В. Пімен Панчанка // Стыль пісьменніка. Мн., 1974; Бугаёў Дз. Сейбіт праўды і чалавечнасці // Бугаёў Дз. Талент і праца. Мн., 1979. *М. М. Аляхновіч.*

## ПАРАДАК СЛОЎ У СКАЗЕ

Парадак слоў у сказе — гэта пэўнае размяшчэнне ў структуры сказа яго членаў (кампанентаў). У беларускай мове ён адносна вольны, таму што за членамі сказа не замацавана пэўнае месца: выказнік можа стаяць то пасля дзейніка, то перад ім: *Лес аж звінеў ад птушыных галасоў* (К. Чорны); *Расправіла крылы вясна* (Т. Хадкевіч). Некаторыя тыпы акалічнасцей і дапаўнення могуць займаць розныя пазіцыі ў структуры сказа: *На світанні батальён быў на месцы, у невялікім лясочку* (І. Мележ); *Час бяжыць і ляціць быстраю стралою* (А. Гурло); *Напамінанне пра сына растрывожыла думкі старога* (К. Крапіва); *У яго голасе чуецца ласка* (Я. Колас).

Парадак слоў выконвае важную арганізацыйную ролю: аб'яднанне размешчаных пэўным чынам словаформ і словазлучэнняў можа стаць сказам. Словапарадак можа быць звычайным (прамым, аб'ектыўным) і, як правіла, стылёва нейтральным і адваротным (непрамым, незвычайным, інверсійным, суб'ектыўным). Пры прамым парадку слоў дзейнік стаіць перад выказнікам, дапасаванае азначэнне — перад словам, што паясняецца, недапасаванае — пасля яго; прамое дапаўненне — пасля слова, якое ім кіруе; акалічнасць спосабу дзеяння, меры і ступені — перад дзеясловам-выказнікам ці ў пачатку сказа: *Дзед Талаш стаяў у напружанай постаці чакання* (Я. Колас); *Наташа пасоўвалася бліжэй да агню і глядзела на яркія зоркі, што весела ззялі праз калматае голле ялін* (І. Шамякін). У аўтарскіх рэмарках драматычных твораў, у словах аўтара, што стаяць пасля простай мовы ці разрываюць яе, прамым лічыцца парадак слоў з прэпазіцыйным выказнікам: *Уваходзіць Лявон...* (Я. Купала), *«Пагода сёння будзе добрая»,— кажуць пажылыя палешукі* (Я. Колас).

У сказах з адваротным парадкам слоў дзейнік размяшчаецца пасля дзеяслоўнага выказніка: *На пустым і закінутым полі не народзяць зярнят каласы* (А. Бялевіч). Састаўныя іменныя выказнікі сустракаюцца тут даволі рэдка: *Сонечным і белым, нібы залітым сырадоем, здаваўся ты, горад, у тое ранне* (С. Грахоўскі). Адваротны словапарадак з'яўляецца ўмовай адасаблення членаў сказа: *Сонца ўсё ж растапіла хмарку на ўсходзе і ўзнялося над зямлёй, яркае і вясёлае* (Т. Хадкевіч). Ён уласцівы пераважна гутарковай мове і мове мастацкай літаратуры ў функцыі інверсіі. У вершаваных творах парадак слоў часта абумоўлены патрабаваннямі рытму і рыфмы, у гутарковай мове — заканамернасцямі пабудовы дыялога, сітуацыяй, калі на першае месца выносіцца інфармацыйна найбольш значны сінтаксічны кампанент: *«Фармальна вы маеце рацыю».— Не фармальна, а сапраўды яно так».* У той жа час не кожны адваротны парадак слоў з'яўляецца інверсіяй: *Душы маёй крануцца не пасмее // Ні старасці засохлая рука, // Ні смерці медзяністая завея, // Ні забыцця бяздумная рака* (К. Буйло).

Парадак слоў выконвае тры асноўныя функцыі: камунікатыўную, граматычную (сінтаксічную) і стылістычную.

Камунікатыўная функцыя словапарадку характарызуецца тым, што ён прымае ўдзел у афармленні актуальнага члянення выказвання (яго ўключэння ў кантэкст ці сітуацыю). У залежнасці ад тэма-рэмных адносін у адной і той жа сінтаксічнай адзінцы можа быць розны парадак слоў, параўнаем: *Хмары плывуць над Дняпром. Плывуць над Дняпром хмары. Над Дняпром плывуць хмары. Над Дняпром хмары плывуць. Плывуць хмары над Дняпром.* У выказванні сродкамі парадку слоў выражаецца не толькі яго састаў (дзяленне на тэму і рэму), але і ступень камунікатыўнай значнасці кожнага слова.

Граматычная функцыя парадку слоў заключаецца ў тым, што ён служыць для адрознення членаў і тыпаў сказа, асабліва калі кантэкст не дазваляе размежаваць аманімічныя словаформы і словазлучэнні. Сказ з назоўніка і прыметніка пасля яго ў функцыі выказніка з'яўляецца двухсастаўным: *Дарога гладкая, слізкая, бліскучая* (М. Лужанін); *Шапкі зверху чорныя, а спаднізу белыя, бы кужаль* (Я. Колас). У прэпазіцыі прыметнік лічыцца азначэннем, а сказ — аднасастаўным (намінатыўным): *Хмельны сад цвіце... Салаўіны свіст* (М. Танк); *Калючыя зоры. Паўночны спакой* (А. Вялюгін). Словапарадак дазваляе адрозніць дзейнік ад выказніка, калі яны выражаюцца назоўнікамі назоўнага склону: *Брэст — заходнія вароты нашай краіны; Заходнія вароты нашай краіны — Брэст.* Член сказа на першым месцы — дзейнік, на другім — выказнік. Таксама, калі адзін ці абодва галоўныя кампаненты выражаюцца інфінітывам: *Атрымаць веды — наша галоўная задача; Наша галоўная задача — атрымаць веды.* Менавіта словапарадак дапамагае адрозніць дзейнік на першым месцы ад прамога дапаўнення за ім: *Зелле глушыць лён.* Пры змяненні парадку слоў лексема *лён* набывае сінтаксічную функцыю дзейніка, а лексема *зелле* — прамога дапаўнення. Сказ з інфінітывам і безасабова-прэдыкатыўным словам за ім у функцыі выказніка з'яўляецца двухсастаўным: *Ехаць тут аўтамабілем — прыемна* (У. Шахавец). Але такі сказ адразу становіцца аднасастаўным (безасабовым) пры іншым парадку слоў у ім — калі ў састаўным дзеяслоўным выказніку інфінітыў стаіць пасля безасабова-прэдыкатыўнага слова: *У завеях пялёсткаў блакітных няцяжка цяпер заблудзіцца* (П. Панчанка).

Стылістычныя функцыі (дадатковую семантычную і эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку) набываюць словы сказа, размешчаныя ў незвычайным для іх парадку. Залежыць гэты парадак ад жанру твора, спосабу падачы матэрыялу. Так, пры апісанні выказнік звычайна стаіць на першым месцы: *Стаяла на дзіва прыгожая раніца, якія бываюць у канцы жніўня, калі з поля ўжо звезена ўсё да апошняга снапа* (М. Лынькоў). Там звычайна ставяць выказнік у аўтарскіх рэмарках драматычных твораў: *Уваходзіць Лявон і садзіцца за*

*стол* (Я. Купала). Інверсійны парадак слоў надае дынамічнасць і мастацкую выразнасць многім вершаваным творам: *Шэпчуць згодна каласінкі, гойдаюцца нівы, ходзіць гоман між збажынкі, мілы і шчаслівы* (Я. Колас).

Парадак слоў у сказе цесна звязаны з фразавым націскам: пры звычайным (прамым, аб'ектыўным) словаразмяшчэнні націск слабы, а пры адваротным (інверсійным, суб'ектыўным) ён значна ўзмацняецца.

*Літ.:* Ковтунова И. И. Современный русский язык: Порядок слов и актуальное членение предложения. М., 1976; Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986; Бурак Л. І. Сучасная беларуская мова: Сінтаксіс. Пунктуацыя. Мн., 1987; Яўневіч М. С., Сцяцко П. У. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1987.

*П. М. Чайкун.*

## ПАРАДЫЙНА-САТЫРЫЧНЫЯ ПАЭМЫ «ЭНЕІДА НАВЫВАРАТ» І «ТАРАС НА ПАРНАСЕ»

Парадыйна-сатырычныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» — найбольш буйныя і каштоўныя па ідэйна-мастацкіх вартасцях творы ананімнай беларускай дэмакратычнай літаратуры першай паловы — сярэдзіны 19 ст. Шэраг пытанняў, звязаных з гісторыяй узнікнення паэм (такія, як час, аўтарства), канчаткова не вырашаны. Першая з іх створана пасля Айчыннай вайны 1812 г., але не пазней як у пачатку 30-х гг., другая — у 50-я гг. мінулага стагоддзя. Існуе некалькі версій адносна аўтарства паэм; ніводная з іх пакуль што не можа быць прызнана поўнасцю даказанай, а таму паэмы да апошняга часу разглядаліся як ананімныя. Даследчыкі зыходзяцца на тым, што напісаны яны не адным і тым жа аўтарам. Аўтарамі «Энеіды навыварат» называюць і В. Равінскага, і І. Манькоўскага, і К. Мыслоўскага, і К. Веранiцына, і інш. Аўтарства паэмы «Тарас на Парнасе» прыпісваецца і тым жа Равінскаму, і Вераніцыну, і В. Дуніну-Марцінкевічу, і А. Вярыгу-Дарэўскаму, і Я. Крупеньку, бегламу дзекабрысту, і камусьці са студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута, і іншым асобам. Доўгі час паэмы распаўсюджваліся вусным шляхам. Захавалася некалькі спісаў іх, зробленых у розных мясцовасцях Беларусі (пераважна ўсходняй яе часткі), што сведчыць аб вялікай папулярнасці гэтых твораў у народзе. Спісы значна вар'іруюцца з боку зместу і мовы: пашырэнне паэм вусным шляхам не магло не выклікаць розных змен у іх першапачатковым аўтарскім тэксце. Самі ж аўтарскія тэксты невядомы. Паэма «Энеіда навыварат» наогул захавалася не поўнасцю, ва ўрыўку (палавіна першай песні). Паэмы выдаваліся і выдаюцца паводле розных спісаў. Адзінага (кананічнага) тэксту паэмы не маюць. Сучасныя выданні паэм — гэта сінтэз іх лепшых варыянтаў.

Першыя публікацыі паэм з'явіліся намнога пазней часу іх узнікнення. Паэма «Энеіда навыварат» упершыню была надрукавана ў пецярбургскім часопісе «Маяк» у 1845 г. паводле спісу так званай віцебскай рэдакцыі. У 1890 г. газета «Смоленский вестник» надрукавала паэму ў іншай, крыху паўнейшай рэдакцыі, якую называюць смаленскай. І тая, і другая рэдакцыі грунтуюцца на тэксце, які, як паказаў Я. Ф. Карскі, належыць адной і той жа асобе. Паэма «Тарас на Парнасе» ўпершыню была апублікавана газетай «Минский листок» толькі ў 1889 г. паводле спіса, што распаўсюджваўся ў Віцебскай губерні. У наступныя гады яна неаднаразова друкавалася паводле розных спісаў і выходзіла асобнымі выданнямі.

Папулярнасць паэмы набылі найперш дзякуючы свайму займальнаму зместу, сатырычна-гумарыстычнай манеры яго выкладу. У паэмах у смяшлівым, камічным тоне парадзіруюцца сюжэты антычнай літаратуры і міфалогіі (у паэме «Энеіда навыварат» «пераніцоўваецца» вядомы твор старажытнарымскага паэта Вергілія «Энеіда» пра прыгоды траянцаў на чале з Энеем, а ў паэме «Тарас на Парнасе» апавядаецца пра знаходжанне палясоўшчыка Тараса сярод багоў старажытнагрэчаскага Алімпа). Аўтары ананімных паэм, апавядаючы пра жыццё багоў і герояў антычнага свету, здолелі намаляваць яскравыя, напоўненыя каларытнымі дэталямі карціны побыту беларускіх сялян часоў прыгону. Усё, пра што хацелі сказаць аўтары паэм, было блізка, зразумела простаму чалавеку — учынкі і перажыванні герояў, і тыя абставіны, у якіх яны дзейнічалі. Даступнай аказалася і мова, на якой вялося апавяданне. Гэта былі наватарскія для свайго часу творы. Яны засведчылі новы напрамак у гісторыі беларускай літаратуры — паварот яе да апісання жыцця простага чалавека з яго штодзённымі клопатамі і трывогамі. Паэмы спрыялі замацаванню ў беларускай літаратуры сучаснай сістэмы вершаскладання.

Выключна вялікае значэнне паэм і ў гісторыі новай (сучаснай) беларускай літаратурнай мовы. Па-першае, яны адыгралі пэўную ролю ў выпрацоўцы яе правапісна-граматычных нормаў. Паэма «Энеіда навыварат» з'явілася ў друку ў той час, калі на беларускай мове толькі распачыналася адраджанае пасля пэўнага перапынку кнігадрукаванне. Яно абмяжоўвалася выданнем галоўным чынам запісаў фальклору і помнікаў старажытнага пісьменства. Выдаваліся і творы некаторых пісьменнікаў — Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, А. Рыпінскага, але гэтыя выданні былі маладаступнымі, часткова яны выходзілі далёка за мяжой. Іх друкавалі лацінкай — на ўзор тагачасных польскіх выданняў. Фальклорныя матэрыялы і пісьмовыя помнікі публікаваліся пераважна ў рускіх выданнях, рускай графікай. Для перадачы моўных асаблівасцей беларускіх фальклорных матэрыялаў шырока выкарыстоўваліся прыёмы рускай арфаграфіі. З-за гэтага спецыфіка беларускай мовы перадавалася недакладна, часам наогул скажона, паводле рускіх арфаграфічных правіл. Яе характэрныя рысы адзначаліся непаслядоўна, па-рознаму нават у адным і тым выданні. Так, у публікацыі часопіса «Маяк» шматлікімі прыкладамі адлюстраваны такія асаблівасці беларускага вымаўлення, як аканне і яканне (у першым пераднаціскным складзе), але тут жа сустракаем: *у болоцѣ, соромно, зазеленѣлось* і г. д. Амаль заўсёды перадаецца дзеканне, але: *ѣздь*, г. зн. едзь, *уздѣла*. Цеканне адзначаецца такім самым спосабам, што і зараз: *клѣци, уцякли*, але нярэдка праз напісанне літар *тс: погулятсь, хотсѣла*. Для абазначэння *ў*, што развілося з *в* і *л*, ужываецца звычайна літара *у* (значка скарачэння яшчэ не было): *Саука, казау*, але: *встала, въ табаку* і г. д. Пасля шыпячых, згодна з рускай арфаграфіяй, пішуцца літары *е, ё, и* (а не *э, о, ы*, як таго патрабуе цвёрдасць шыпячых): *животы, Чижовскихъ, гроши, щёлокомъ;* выключэнні з гэтага правіла вельмі рэдкія: *зажыуши, чаунокь*. Паслядоўна адзначаецца этымалагічная мяккасць *р: морѣ, пузырями*. Ужываюцца літары *ѣ, ъ* (на канцы слоў), *и* і *і* (апошняя — перад галоснымі і *й, ў: панскіе, якій, набіу*), формы тыпу *хупавый, на чаунакѣ, къ жёнкѣ, впряги* (г. зн. вупражы), хоць, магчыма, некаторыя з такіх напісанняў адлюстроўвалі асаблівасці мясцовых гаворак. Гэта датычыцца, у прыватнасці, выпадкаў з мяккім *р*, канчаткаў *-ый, -ій* у словах прыметнікавага склянення, формаў тыпу *на чаунакѣ*, адсутнасці чаргавання *г* з *ж (впряги)*, падаўжэння зычных у інтэрвакальным становішчы (*въ ачу*, г. зн. у ваччу, *зелье, едзѣнье*). Акрамя гэтага, у публікацыі сустракаемся з такімі асаблівасцямі некаторых паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак, як змяшэнне *ч* і *ц* (*вѣцно, драцона, цы* замест *вечна, драчона, чы*), вымаўленне *і* на месцы *э* ненаціскнога *(ина*, г. зн. *яна, сцибау, знаишъ)*, формы тыпу *будзѣць зроб, ня бойсь*, словы *кавярзні* 'лапці', *кацатых (качатыг)* 'драўлянае шыла для пляцення лапцей', *кулага* 'ежа з густа заваранай жытняй мукі', *панёва* 'род жаночай вопраткі', *папранік* 'пернік', *скурапея (шкурапея)* 'кароста', *чапы* 'вінная

мера', *неграбівы* 'неганарлівы', *хупавы* 'лоўкі, спрытны', *зюкаць* 'гаварыць' і інш.

Першыя публікацыі паэмы «Тарас на Парнасе» адносяцца да таго часу, калі на беларускай мове была ўжо даволі значная друкаваная прадукцыя — творы В. Дуніна-Марцінкевіча, некаторых іншых беларускіх пісьменнікаў, шматлікія зборнікі фальклору, быў назапашаны пэўны вопыт выдання беларускіх тэкстаў. Гэта станоўча адбілася на першавыданнях паэмы. Мова іх больш упарадкавана, такога арфаграфічнага разнабою, як у першапублікацыях «Энеіды навыварат», не назіраецца. Але і тут выкарыстоўваюцца тая ж графічная сістэма і тыя ж арфаграфічныя прыёмы, што прымяняліся выдаўцамі паэмы «Энеіда навыварат», г. зн. ужываюцца літары *ѣ, и, i, у* (на месцы сучаснай ў), *ъ* на канцы слова, напісанні тыпу *пригожа, якій, рахманый, пякець* і г. д. Паслядоўней перадаецца аканне, мяккі *ц* ужо не абазначаецца праз напісанне літар *тс*, але дзеканне паранейшаму можа і не адзначацца. Выяўляюцца ў першых выданнях паэмы і рысы паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак — Магілёўшчыны, Віцебшчыны і нават Смаленшчыны, у тым ліку лексічныя: *кулеш* ,'гарохавы кісель'; *насадка* 'пасудзіна з рыльцам', *падвірка* 'падплёт для лапцей', *ранда* 'карчма', *нагбом піць* 'піць з вялікай пасудзіны, не наліваючы ў шклянкі', *бурундзіць* 'мармытаць пад нос' і інш.

Параўнанне розных выданняў паэм паказвае, як паступова складваліся літаратурныя нормы сучаснай беларускай мовы. Праца над удасканаленнем мовы пры перавыданні паэм, іх вялікая папулярнасць, бясспрэчна, не маглі не спрыяць самому працэсу выпрацоўкі і пашырэння нормаў.

Але значэнне паэм яшчэ большае ў тых адносінах, што яны сцвердзілі прыярытэт народнай мовы як сродку стварэння нацыянальнай мастацкай літаратуры, паказалі, што народная мова валодае дастатковымі рэсурсамі, каб пісаць на ёй паўнакроўныя, высокамастацкія творы. Для свайго часу гэта было прынцыпова важным, бо нямала хто даказваў, што на «прымітыўнай», «мужыцкай» мове нельга стварыць сапраўднай літаратуры, ды і ўвогуле яна не патрэбная, таму што беларускі народ можа з поспехам карыстацца рускай літаратурай. Аўтары паэм, як бы наперакор такім сцверджанням, звярнуліся да сюжэтаў класічнай літаратуры з яе вытанчанымі вобразамі і моўна-выяўленчымі сродкамі, і, абыгрываючы гэтыя сюжэты ў духу дасціпнага народнага гумару, з лёгкім жартам, а часам і едкім сарказмам расказалі пра тагачасную беларускую вёску. Галоўным сродкам стварэння мастацкіх вобразаў для іх паслужылі народная лексіка і фразеалогія ва ўсёй іх шматграннасці — ад нейтральна-бытавых да эмацыянальна-ацэначных пластоў. Нават нешматлікія кніжныя словы — назвы міфалагічных істот і некаторых іншых спецыфічных рэалій аўтары паэм падалі ў форме, характэрнай для тагачаснага вясковага вымаўлення: *Зяхвір, хвігурная, хвантазія, хранцуз, япрэйтар, Карпагень, Яней, глазеты* (газеты),*рашпорты* (пашпарты), *лякруціна* (рэкрут) і інш. (у сучасных выданнях гэтыя словы часцей падаюцца ў іх літаратурнай форме). Адбіраюцца найбольш ёмкія, каларытныя словы і звароты, нярэдка адзначаныя адценнем прастамоўнасці. Удала ўжытыя, яны ствараюць яркі малюнак, поўны народнай дасціпнасці і вастрыні. Вось як апісваецца Венера ў паэме «Энеіда навыварат» (у сучасным выданні): *Венера с кірмашу вярнулась... // Андрак з насоўкай апранула, // З падплётам ўздзела кавярзні, // Анучкі рабыя абула, // Як быццам война селязні, // Твар сыраваткаю абмыла, // Кужэльны ўздзела балахон, // Папранік у хустачку ўлажыла,— // Пайшла да Зеўса на паклон.* Такой жа вясковай кабетай выступае яна і ў паэме «Тарас на Парнасе»: *Во перад люстрам задам меліць // І маслам мажыць валасы // Ды нечым белым твар свой беліць // Венера, знаць, дзеля красы... // ...Узяўшы хустачку, Венера // Пайшла «мяцеліцу» скакаць, // Прыгожа, стройна цераз меру, // Пяром не можна апісаць. // Чырвона, тоўста, круглаліца // І вочы, як на калясе; // Як жар, гарыць яе спадніца, // Істужкі ўплецены ў касе.*

З вясковай гаворкі, з вуснай народнай творчасці чэрпаюць аўтары паэм сінонімы, моўныя звароты тыпу *о цар-царэвіч; хадзіў ці дойга ён, ці мала* і да т. п., эпітэты і параўнанні, нярэдка вострага сацыяльнага зместу *(мора сіняе; паня ліхая; бягуць, як батракі з прыгону)*. Некаторыя звароты нават супадаюць у паэмах: ***любіў ён цешыць грэшна цела,*** *дзявухна па нутру была* — у паэме «Энеіда навыварат», а ў паэме «Тарас на Парнасе»: ***любіў ён цешыць грэшна цела*** *ды часам лоўка падгуляць;* у паэме «Энеіда навыварат» *Эол лапці лыкам падплятаў* — у паэме «Тарас на Парнасе» *Сатурн падвіркай лапці падплятаў* і г. д.

Асаблівасці гутарковай мовы выяўлюцца і ў граматычным ладзе паэм (параўнаем такія формы, як *сваціейка, дзявухна, гарэлачка, прыгожанькая, дамоўкі, адкулечка, пайным-пайнюсенькім, бразь, шмык, кляпсь*). Сказы ў паэмах, як правіла, простай будовы, сціплыя, лагічна выразныя; верш лёгкі, гнуткі.

Такім чынам, уся сістэма моўнавыяўленчых сродкаў паэм заснавана на матэрыяле народнай моватворчасці. Гэта і ёсць тая адметная рыса, якая вызначыла далейшае развіццё беларускай літаратуры і яе мовы. Ад ананімных паэм да твораў сучаснай літаратуры беларуская літаратурная мова прайшла вялікі шлях у напрамку свайго ўдасканалення, узбагачэння такімі якасцямі, каб на ёй стала магчымым вырашаць самыя разнастайныя мастацкія задачы, каб яна змагла абслугоўваць розныя сферы грамадска-культурнага жыцця народа. Распачынаўся гэты шлях менавіта ў нетрах той літаратурнай творчасці, з якой выраслі такія шэдэўры, як паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе».

*Літ.:* Шакун Л. М. Аб мове паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»: (Да пытання аб фарміраванні сучаснай бел. літ. мовы) // Тр. по языкознанию (БГУ) . Мн., 1958. Вып. 1; Бас І. Друкаваныя і рукапісныя варыянты паэмы «Тарас на Парнасе» // Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1960. Вып. 3; Яго ж. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. Мн., 1969; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978; Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастр. перыяд. Ч. 1. 2 выд. Мн., 1989.

*Л. М. Шакун.*

## ПАРАЛЕКСІЯ

Паралексія — гэта моўная з'ява, якая выяўляецца пры папарным супастаўленні лексічных адзінак дзвюх блізкароднасных моў. Сярод лексічных адзінак беларускай і рускай моў, якія маюць аднолькавае сэнсавае значэнне, можна вылучыць тры тыпы іх суадносін: супадзенне (бел. *дуб* — рус. *дуб, стол — стол, пень — пень* і інш.), частковае супадзенне (бел. *малады* — рус. *молодой, выключальнік — выключатель, ісці — идти* і інш.), несупадзенне (бел. *блакітны* — рус. *голубой, ветразь — парус, крочыць — шагать* і інш.).

Частковае супадзенне (ці няпоўнае разыходжанне) можа быць рэгулярным (параўнайце: *чытаць — читать, рад — ряд, нясеш — несёшь*) і нерэгулярным (напрыклад: бел. *шабля* — рус. *сабля, медаль* м. р. — *медаль* ж. р., *мімаходзь — мимоходом*). Для тыпалагічнай характарыстыкі беларускай і рускай лексікі, а таксама для вырашэння многіх іншых праблем вялікае значэнне мае вывучэнне няпоўных разыходжанняў сэнсава тоесных адзінак, ці так званых паралексаў.

Паралексы — гэта тоесныя па значэнні і блізкія па гучанні словы дзвюх блізкароднасных моў, якія маюць пераважна нерэгулярныя адрозненні ў некаторых дэталях формы (граматычным родзе, ліку, націску, словаўтваральных элементах).

Сярод паралексаў вылучаюць акцэнталагічныя, словаўтваральныя, граматычныя і марфаналагічныя.

Акцэнталагічныя паралексы адрозніваюцца толькі націс-

кам (бел. *рэ́мень* — рус. *реме́нь, ло́пух — лопу́х, крапіва́ — крапи́ва, кухо́нны — ку́хонный, не́сці — нести́, цёмна — темно́, адзіна́ццаць — оди́ннадцать* і інш.). Некаторыя акцэнталагічныя паралексы могуць мець і рэгулярныя адрозненні, напрыклад, *в* прыстаўное: *во́льха — ольха́* і інш. Акрамя лексем, якія адрозніваюцца націскам як у зыходнай, так і ва ўсіх астатніх формах, вылучаецца група паралекс, якія адрозніваюцца акцэнталагічна толькі ў адной ці некалькіх словаформах (*вада́ — вода́,* але *ваду́ — во́ду; во́лас — во́лос,* але *валасы́ — во́лосы; знайсці — найти́,* але *зно́йдзеш — найдёшь; лі́ць — ли́ть,* але *льяце́ — льете* і інш.). Пры выкарыстанні паралексаў такога тыпу ва ўмовах беларуска-рускага білінгвізму вельмі часта назіраюцца парушэнні літаратурнай нормы пры пастаноўцы націску.

Словаўтваральныя паралексы адрозніваюцца толькі некаторымі словаўтваральнымі афіксамі: прыстаўкамі, суфіксамі ці прыстаўкамі і суфіксамі адначасова (бел. *раўнадушнасць* — рус. *равнодушие, шалясценне — шелест, пакупнік — покупатель, памужнелы — возмужавший* і інш.). Словаўтваральныя паралексы існуюць сярод усіх часцін мовы (назоўнікаў: *грэчка — гречиха, прайгравальнік — проигрыватель, жыхар — житель;* прыметнікаў: *традыцыйны — традиционный, лісіны — лисий, атлетычны — атлетический;* дзеясловаў: *абцерці — обтереть, пашырыць — расширить, зацвердзіць — утвердить;* прыслоўяў: *самастойна — самостоятельно, вычарпальна — исчерпывающе, зрэдку — изредка* і інш.). Большая частка паралексаў гэтага тыпу ўтворана ў рускай і беларускай мовах ад адных і тых каранёў з дапамогай розных словаўтваральных сродкаў. Новыя словы, утвораныя ад паралексаў, адрозніваюцца ўжо не адным, а двума-трыма словаўтваральнымі элементамі.

Граматычныя паралексы маюць аднолькавае значэнне, але адрозніваюцца граматычным родам, лікам і г. д. Яны складаюць значна меншую групу, чым акцэнталагічныя і словаўтваральныя паралексы. У рускай і беларускай мовах налічваецца каля 500 назоўнікаў, якія адрозніваюцца граматычнай катэгорыяй роду. Так, напрыклад: бел. *гусь* ж. р.— рус. *гусь* м. р., *сабака* м. р.— *собака* ж. р., *боль* м. р. — *боль* ж. р., *мазоль* м. р.— *мозоль* ж. р., *палын* м. р.— *полынь* ж. р. і інш. Сюды ж уваходзяць і паралексы, якія адрозніваюцца граматычнай катэгорыяй ліку (бел. *канаплі* — рус. *конопля, чарніла — чернила, дзверы — дверь, грудзі — грудь*).

Асобную групу складаюць марфаналагічныя паралексы. Пры адноснай тоеснасці значэння яны характарызуюцца адрозненнямі ў будове марфем і складоў, якія не звodзяцца да словаўтваральных адрозненняў (бел. *віск* — рус. *визг, карабель — корабль*). Існаванне паралексаў гэтага тыпу ў рускай і беларускай мовах звязана з шэрагам прычын. Адна з іх — крыніца запазычання. У рускай мове слова *пещера* запазычана са стараславянскай мовы, у беларускай жа мове захавалася спрадвечнае *пячора;* рускае *обещать* таксама запазычана са стараславянскай мовы, беларускае *абяцаць* — з польскай.

Другой прычынай існавання марфаналагічных паралексаў з'яўляюцца фанетычныя працэсы розных відаў: адлюстраванне на пісьме дысіміляцыі (бел. *хто* — рус. *кто, хутаць — кутать, пінжак — пиджак, калідор — коридор* і інш.), наяўнасць у абедзвюх мовах слоў, якія адрозніваюцца па глухасці — звонкасці зычных кораня (бел. *торгаць* — рус. *дёргать, матыка — мотыга* і інш.) Многія марфаналагічныя паралексы ўзніклі ў выніку метатэзы ў адной з моў (бел. *талерка* — рус. *тарелка, далонь — ладонь, друшляк — дуршлаг*). Адной з прычын з'яўляецца таксама адлюстраванне на пісьме ў беларускай мове фанетыкі вуснай мовы: бел. *муштук* — рус. *мундштук, сонца — солнце.*

У якасці прычын існавання марфаналагічных паралексаў можна назваць таксама розныя спосабы перадачы на пісьме анаматапаэтычных (ці гукапераймальных) слоў у абедзвюх мовах: бел. *тупат* — рус. *топот, грукат — грохот;* народную этымалогію: бел. *свірэпа* — рус. *сурепка, крышталь — хрусталь* і інш. Ёсць група паралексаў, якія адрозніваюцца гукамі *ш — с* у пачатку слова (бел. *шызы* — рус. *сизый, шкарлятына — скарлатина, шкілет — скелет*).

У рускай і беларускай мовах існуе яшчэ група паралексаў змешанага тыпу, г. зн. адзінак, якія адрозніваюцца, напрыклад, словаўтварэннем і націскам (бел. *радзі́мка* — рус. *ро́динка, ро́здум — разду́мье, пчаля́рства — пчелово́дство, садо́к — са́дик*), словаўтварэннем і катэгорыяй роду (бел. *цяля* н. р.— рус. *телёнок* м. р., *статак* м. р.— *стадо* н. р., *пачатак* м. р.— *начало* н. р.), катэгорыяй роду і націскам (бел. *селядзе́ц* м. р.— рус. *селёдка* ж. р., *тапо́ля* ж. р.— *то́поль* м. р.) і інш.

Даследаванне беларуска-рускіх паралексаў мае асабліва важнае значэнне для распрацоўкі пытанняў культуры беларускай мовы ва ўмовах двухмоўя. Словаўтваральныя і акцэнталагічныя разыходжанні, разыходжанні ў катэгорыях роду і ліку павінны знаходзіцца ў цэнтры ўвагі практычнай работы пры вывучэнні беларускай і рускай моў.

*Літ.:* Белорусско-русский паралексический словарь-справочник. Мн., 1985; Кунцэвіч Л. П. Да характарыстыкі беларуска-рускай паралексіі // Бел. лінгвістыка. Мн., 1987. Вып. 31; Михневич А. Е. Паралексы // Русский язык. Мн., 1981.

*Л. П. Кунцэвіч.*

## ПАРАНІМІЯ

Паранімія — гэта частковае супадзенне па гучанні слоў, якія адрозніваюцца паміж сабой значэннем (*генеральны — генеральскі, жняя — жняярка*).

Паронімы (ад грэч. para побач, каля + onyma імя) — найчасцей аднакарэнныя словы, якія маюць марфемнае і гукавое падабенства, але выражаюць розныя сэнсавыя паняцці: *адрасат* 'той, каму адрасавана паштовае адпраўленне' — *адрасант* 'той, хто пасылае паштовае адпраўленне'; *балотны* 'які мае адносіны да балота, уласцівы балоту' — *балоцісты* 'у якім шмат балот, гразкі, багністы'; *дыпламат* 'службовая асоба, упаўнаважаная ўрадам для зносін, перагавораў з замежнымі дзяржавамі' — *дыпламант* 'удзельнік конкурсу, узнагароджаны дыпломам'.

У беларускай мове сустракаюцца такія словы не толькі парамі, але і па тры ці нават чатыры ў адным радзе: *асабісты — асаблівы — асабовы; адзінкавы — адзіночны — адзінокі — адзіны* і інш. Паранімічныя адносіны ўзнікаюць найчасцей паміж назоўнікамі, прыметнікамі, радзей — паміж дзеясловамі. Паронімы найчасцей адносяцца да адной часціны мовы, аднаго граматычнага роду (і трывання, калі гэта дзеясловы ці іх формы).

Кампаненты кожнай паранімічнай пары суадносяцца паміж сабой як паралельныя адзінкі, гэта значыць сугучныя марфалагічныя ўтварэнні, якія адрозніваюцца як сэнсам, так і формай: *буксаваць — буксіраваць; ступа — ступня; цікавы — цікаўны.*

Значэнні паронімаў не супадаюць: не перасякаюцца (як у сінонімах), не праціпастаўляюцца (як у антонімах), іх знешні выгляд не аднолькавы (як у амонімах). Кожны з паронімаў з'яўляецца функцыянальна самастойным, можа мець сінонімы і антонімы, ніколі не можа быць заменены ў тэксце другім кампанентам паранімічнай пары без парушэння сэнсу выказвання. Блізкасць паронімаў па гучанні і сэнсавыя разыходжанні могуць быць большымі або меншымі.

Некаторыя вучоныя адрозніваюць поўныя і няпоўныя паронімы. Да поўных (абсалютных) паронімаў адносяць звычайна сугучныя аднакарэнныя словы з розным значэннем, якія належаць да адной часціны мовы, маюць націск на адным і тым жа складзе: параўнаем *чарнець* 'станавіцца чорным, чарнейшым'—*чарніць* 'рабіць што-небудзь чорным, чарнейшым'; *эканомія* 'ашчаднасць, беражлівасць пры расходаванні чаго-небудзь' — *эканоміка* 'сукупнасць вытворчых адносін пэўнага грамадскага ладу, якія адпавядаюць развіццю прадукцыйных сіл грамадства,

гаспадарчае жыццё, стан гаспадаркі' і інш.

Сугучнасць слоў нельга разглядаць як вынік выпадковага збліжэння па гучанні. Як адна з асноўных прыкмет паронімаў, яна характарызуецца і месцам націску. Аднамеснасць націску ў абодвух кампанентах паранімічнай пары лічыцца адной з абавязковых прыкмет поўных паронімаў. Месца націску ў паронімах адрознівае іх ад іншых катэгорый слоў, у прыватнасці ад сінонімаў і фанетычных варыянтаў слова. Па той прычыне, што ў паронімах часта націск стаіць на адным і тым жа складзе, сціраецца індывідуальнасць значэння кожнага з сугучных слоў (*малаважкі — малаважны, дрэўка — дрэўца, пілаванне — пілавінне*). Гэта і прыводзіць да ненаўмыснага іх змешвання. Асабліва часта выпадкі змешвання паронімаў можна назіраць у вуснай мове (напрыклад, *выразаць апендыцыт* замест *выразаць апендыкс*).

Няпоўныя (ці частковыя) паронімы вельмі часта адрозніваюцца націскам, што часта прыводзіць да парушэння сугучнасці. Параўнаем *ды́мны* 'дымная галавешка, дымнае неба' — *дымаві́* 'дымавая шашка'; *дажджавы* 'дажджавая вада' — *дажджлівы* 'дажджлівая восень'; *белізна́* — *бялі́зна*.

У лінгвістычнай літаратуры ёсць і больш шырокае разуменне паронімаў: да іх адносяць не толькі аднакарэнныя словы, але і няродныя паводле марфалагічнага складу словы, якія маюць выпадковае гукавое падабенства (*амплуа — ампула, эфект — афект*).

Пры недастатковым валоданні мовай адбываецца памылковае словаўтварэнне (*дажджавая восень* замест *дажджлівая; дымная шашка* замест *дымавая* і інш.). Такія памылкі сустракаюцца нават на старонках газет, у публіцыстычных і мастацкіх творах. Параўнаем: *І справа і злева ад дарогі ўзвышаецца гліняны* [трэба: глiністы] *бераг*. Адзначаныя выпадкі недакладнага ўжывання сугучных слоў адносяцца да моўных памылак.

Змешванне паронімаў адбываецца па многіх прычынах: у выніку збліжэння рэалій, якія абазначаюцца гэтымі словамі (*дно — днішча*); агульнасці сферы ўжывання паняццяў, дзеянняў, якасцей, якія называюць паронімы (*лоцман — боцман, апагей — перыгей*); узнікненне памылкі магчыма і пры неразмяжоўванні стылёвай прыналежнасці слоў: часам назіраецца збліжэнне кніжных спецыяльных слоў з размоўнымі (*антынонія — антымонія*); у выніку неразмежавання малазнаёмых носьбітам мовы паранімічных слоў ужыванне іх асобамі, якія недастаткова добра валодаюць багаццямі роднай мовы, дрэнна ведаюць семантыку слоў (*экскаватар — эскалатар, ампір — вампір* і інш.).

Выяўленне і вывучэнне паронімаў — адна з неабходных умоў павышэння культуры вуснай і пісьмовай мовы.

Паранімію трэба адрозніваць ад паранамазіі (грэч. paronomasía ад pará каля + onomázo называю), стылістычнага прыёму збліжэння рознакарэнных слоў, якія маюць знешняе гукавое падабенства: *Сінявокі **прашчур** // Сяброўку юную гукаў. // І рэха, быццам **камень** з **прашчы** // У Нёмнаў падала рукаў* (Р. Барадулін). З'яву паранамазіі часта выкарыстоўваюць для стварэння каламбураў, сатырычных твораў.

У 1977 г. выйшаў першы слоўнік паронімаў беларускай мовы С. М. Грабчыкава «Цяжкія выпадкі ўжывання блізкіх па гучанню слоў: (Слоўнік паронімаў бел. мовы)», у 1980 г.— яго ж слоўнік «Міжмоўныя амонімы і паронімы».

*Літ.:* Шуба П. П. Міжмоўная беларуска-руская аманімія і паранімія // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Юрэвіч А. К. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1983; Вишнякова О. В. Паронимия в русском языке. М., 1984.

*Л. П. Кунцэвіч.*

## ПАРАЎНАЛЬНА-ГІСТАРЫЧНАЕ МОВАЗНАЎСТВА

Параўнальна-гістарычнае мовазнаўства, ці кампаратывістыка (лац. comparativus параўнальны),— галіна мовазнаўства, якая, супастаўляючы факты як унутры адной мовы, так і паміж мовамі, даследуе развіццё і стан мовы або групы моў на розных этапах іх існавання і функцыянiравання, узнаўляе дапісьмовы стан і эвалюцыю родных моў і дыялектаў, структуру і гісторыю агульнай для іх прамовы. Апісанні мовы ўзніклі яшчэ ў 5 ст. да н. э. ў Старажытнай Індыі, а пазней і ў Старажытнай Грэцыі, але кожная мова (санскрыт, грэчаская, лацінская і інш.), з аднаго боку, вывучалася і апісвалася як ізаляваная, асобная з'ява, з другога — як з'ява нязменная, пастаянная. Асобныя назіранні над падабенствам шэрага моў вядомыя яшчэ да 19 ст. Ім спрыяла вялізная фактаграфічная база (двухмоўныя і шматмоўныя перакладныя слоўнікі, веданне вучонымі розных замежных моў). І толькі ў пачатку 19 ст. са з'яўленнем параўнальна-гістарычнага мовазнаўства было адкрыта, што ўсе натуральныя мовы знаходзяцца ў пэўнай ступені роднасці, як і іх носьбіты — людзі, ствараюць розныя сем'і, і што ўсе мовы з цягам часу мяняюцца. Яны ці развіваюцца, удасканальваюцца, ці разам са сваімі носьбітамі занепадаюць, а то і знікаюць, паміраюць (як хецкая, палабская, скіфская, старажытнапруская, яцвяжская і іншыя). Менавіта ў 19 ст. былі знойдзены крытэрыі лінгвістычнага параўнання — граматычныя формы, лічэбнікі, тэрміны роднасці і сваяцтва і іншыя. Параўнальна-гістарычны метад улічвае заканамернасць гукавых змен у тоесных марфемах родных слоў. Так, праславянскі гук *ě (*sěno)* мае дакладныя гукавыя адпаведнікі: у старaславянскай мове — *ѣ (сѣно), е* — у рускай мове *(сено)* і беларускай *(сена)*, ва ўкраінскай — *і (сіно)*. Нямецкі мовазнавец Ф. Боп у 1816 г. устанавіў тоеснасць сістэмы спражэння ў некаторых еўрапейскіх мовах і санскрыце, што паслужыла важкім доказам роднасці гэтых моў (звычайна граматычныя паказчыкі не запазычваюцца). Дацкі мовазнавец Р. Раск у гэты час для тлумачэння роднасці розных, у прыватнасці індаеўрапейскіх, моў браў не толькі марфалагічныя даныя, але і гукавыя суадносіны, што было, бадай, найбольш сур'ёзным аргументам, таму што гэтыя суадносіны маюць характар строгіх фанетычных законаў, правіл. Р. Раск даследаваў таксама лексічныя супадзенні ў розных мовах, выказаў ідэю пра паходжанне еўрапейскіх моў ад адной прамовы, названай ім фракійскай. Рускі мовазнавец А. Х. Вастокаў шляхам супастаўлення паказаў не толькі роднасць славянскіх моў, але і адкрыў некаторыя істотныя фанетычныя заканамернасці ў іх развіцці, у прыватнасці так званую першую палаталізацыю, ці першае памякчэнне заднеязычных — пераход заднеязычных *г, к, х* перад галоснымі пярэдняга раду ў *ж, ч, ш* (у сучаснай беларускай мове *дарога — дарожка, рука — ручка, страх — страшны*), і другую палаталізацыю, ці другое памякчэнне заднеязычных — пераход заднеязычных *г, к, х* перад *ѣ* у свісцячыя *з, ц, с* (у сучаснай беларускай мове *рука — руцэ, муха — мусе, нага — назе*). Вучоны выявіў таксама значэнне і характар вымаўлення старажытнаславянскіх насавых гукаў — юсоў, рэдукаваных галосных і іншае.

Нямецкі філолаг Я. Грым (сааўтар вядомых казак братоў Грым) на матэрыяле германскіх моў адкрыў незалежна ад Р. Раска фанетычныя законы пра перамяшчэнне зычных у верхненямецкай мове; выявіў істотныя суадносіны граматычных форм, лічэбнікаў, тэрмінаў роднасці. Ён даказаў, што кожная мова мае сваю спецыфічную гісторыю, а для супастаўлення германскіх моў упершыню выкарыстаў сінтаксічныя з'явы. Гістарычныя даследаванні і супастаўленні лексікі з улікам фанетычных законаў прывялі нямецкага мовазнаўца А. Пота да стварэння этымалагічнага слоўніка індаеўрапейскіх моў, а французскага вучонага Ф. Дзіца — моў раманскіх. Тэарэтычнае асэнсаванне адкрыццяў у развіцці і роднасці розных моў зрабіў В. Гумбальт. На матэрыяле славянскіх моў паспяхова працавалі ў галіне параўнальна-гістарычнага

мовазнаўства І. Добраўскі, Ф. Міклашыч, П. Ф. Фартунатаў, І. І. Сразнеўскі, А. А. Шахматаў і інш.

Гістарычныя даследаванні моў спрыялі ўзнікненню думкі пра тое, што ў аснове індаеўрапейскіх моў ляжала адзіная прамова, якая пасля знікла. Яе рэканструкцыя — адна з задач параўнальна-гістарычнага мовазнаўства, а гэта прывяло да стварэння генеалагічнай класіфікацыі моў (яе зыходны пункт — уяўленне пра прамову як ствол разгалінаванага дрэва моў). Спецыфічныя законы прыводзяць да нераўнамернага развіцця розных моў, іх фанетыкі, граматыкі і іншых унутраных з'яў. Так, за апошнія стагоддзі ў беларускай мове адбылося значна больш змен, чым у суседняй літоўскай мове; у лексіцы кожнай з іх перамен намнога больш, чым у фанетыцы і граматыцы.

У межах параўнальна-гістарычнага мовазнаўства створаны гістарычныя граматыкі практычна ўсіх пісьмовых моў, шматлікія гістарычныя і этымалагічныя слоўнікі. Аднаўленне многіх моўных форм і ўстанаўленне фактаў іх роднасці ў розных мовах значна пашырыла гарызонты нашых уяўленняў пра матэрыяльную і духоўную культуру далёкага мінулага, асабліва пра тыя часы, калі яшчэ не існавала пісьменства, пра рассяленне агульных продкаў розных народаў, якія зараз з'яўляюцца самастойнымі.

Сёння з дапамогаю гістарычна-параўнальнага мовазнаўства дэталізуюцца і ўдакладняюцца шматлікія факты фанетычных, марфалагічных, сінтаксічных, лексічных, семантычных, міжмоўных сувязей, а таксама значна пашыраецца кола моў, паміж якімі ўстанаўліваюцца роднасныя, хоць і далёкія, сувязі. У прыватнасці, да сям'і індаеўрапейскіх моў далучаюцца мовы, якія ў класічным параўнальна-гістарычным мовазнаўстве не разглядаліся як роднасныя (семіта-хаміцкія, картвельскія, уральскія, алтайскія, дравідыйскія і інш.), а новая вялізная далёкароднасная сям'я моў атрымала назву настратычных ці барэйскіх. Вынікі параўнальна-гістарычнага даследавання моў выкарыстоўваюцца ў іншых навуковых дысцыплінах (этнаграфіі, гісторыі, археалогіі, палеанталогіі, антрапалогіі і інш.) для вырашэння пытанняў пра паходжанне, рассяленне, міграцыю народаў, розныя перыяды іх развіцця, пра іх культуру і кантакты паміж імі ў мінулым, род іх заняткаў і светаўспрыманне.

На Беларусі даследаванні ў галіне параўнальна-гістарычнага мовазнаўства вядуцца пераважна ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі (В. У. Мартынаў, Г. А. Цыхун і інш.), БДУ (А. Я. Супрун і інш.). Выдаюцца шматтомныя «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (т. 1—7, 1978—98) і «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» (вып. 1—8, 1982—91).

*Літ.:* Мейе А. Сравнительный метод в историческом языкознании: Пер. с фр. М., 1954; Чемоданов Н. С. Сравнительное языкознание в России: Очерк развития сравнительно-ист. метода в рус. языкознании. М., 1956; Георгиев В. И. Исследования по сравнительно-историческому языкознанию: (Родственные отношения индоевропейских языков). М., 1958; Трубецкой Н. С. Мысли об индоевропейской проблеме // Вопр. языкознания. 1958. № 1; Гурскі М. І. Параўнальная граматыка рускай і беларускай моў. Мн., 1962; Мартынов В. В. Славянская и индоевропейская аккомодация. Мн., 1968; Ягож. Становление праславянского языка по данным славяно-иноязычных контактов. Мн., 1982; Иллич-Свитыч В. М. Опыт сравнения ностратических языков. [Т. 1]. М., 1971; Семереньи О. Введение в сравнительное языкознание: Пер. с нем. М., 1980; Гамкрелидзе Т. В.; Иванов В. В. Индоевропейский язык и индоевропейцы. [Ч.] 1—2. Тбилиси, 1984; Понимание историзма и развития в языкознании первой половины XIX века. Л., 1984.

*Б. А. Плотнікаў*

## ПАРАЎНАЛЬНАЯ ГРАМАТЫКА СЛАВЯНСКІХ МОЎ

Параўнальная граматыка славянскіх моў — тып апісання вынікаў граматычнага даследавання славянскіх моў, у якім разглядаюцца рысы падабенства, абумоўленыя роднасцю гэтых моў, і асаблівасці, выкліканыя іх самастойным развіццём. Параўнальнае апісанне гукавой сістэмы і граматычнага ладу гэтых моў вядзецца або ў гістарычным (дыяхранічным) аспекце (параўнальна-гістарычныя граматыкі), або ў сінхранічным (параўнальна-супастаўляльныя граматыкі). Як частка параўнальнага мовазнаўства, дзе даследаванне моў вядзецца праз іх сістэмнае параўнанне з іншымі мовамі, параўнальныя граматыкі процістаяць апісальным, якія разглядаюць структуру асобнай мовы без сувязі з іншымі мовамі. Аб'ектам даследавання могуць быць дзве мовы і больш, у тым ліку і ўсе славянскія. Найбольш поўныя параўнальныя граматыкі славянскіх моў разглядаюць пытанні славянскай фанетыкі, марфалогіі, словаўтварэння і сінтаксісу. Пры параўнанні фанетычнай структуры, як правіла, разглядаюцца пытанні колькасці і якасці гукаў і фанем; у марфалогіі істотным з'яўляецца наяўнасць або адсутнасць у розных славянскіх мовах пэўных граматычных катэгорый, супастаўленне іх фармальных сродкаў і семантыкі, класаў скланення і спражэння. У параўнанні сістэм словаўтварэння цэнтральнае месца найчасцей займае параўнанне словаўтваральных сродкаў з фармальнага і семантычнага боку, а таксама з боку наяўнасці ці адсутнасці пэўных словаўтваральных тыпаў. Пры параўнальным вывучэнні сінтаксісу славянскіх моў важнымі з'яўляюцца пытанні колькасці і семантычных характарыстык тыпаў словазлучэнняў, а таксама структурных тыпаў сказаў.

Першыя навуковыя працы па параўнальнай граматыцы звязаны з узнікненнем у канцы 18 — пачатку 19 ст. параўнальна-гістарычнага метаду ў мовазнаўстве (гл. **Параўнальна-гістарычнае мовазнаўства**). Ужо заснавальнік навуковай славістыкі Й. Добраўскі працаваў у галіне параўнальнага вывучэння славянскіх моў. Хуткаму развіццю славістычнай кампаратывістыкі (ад лацінскага comparativus — параўнальны) спрыяла з'яўленне «Параўнальнай граматыкі славянскіх моў» Ф. Міклашыча (т. 1—4, 1852—74). У пачатку 20 ст. выйшла «Параўнальная славянская граматыка» (т. 1—2, 1906—08) чэха В. Вондрака, дзе, як і ў Ф. Міклашыча, разглядаліся асаблівасці фанетыкі, марфалогіі, словаўтварэння і сінтаксісу.

У ліку першых параўнальных усходнеславянскіх даследаванняў былі «Параўнальная граматыка славянскіх моў» (1914) В. К. Паржазінскага і «Уводзіны ў параўнальную граматыку славянскіх моў» (1914) А. М. Сялішчава, напісаныя як падручнікі для студэнтаў-філолагаў. Г. А. Ільінскі ў «Праславянскай граматыцы» (1916) паспрабаваў вызначыць пачатковыя фанетычныя і марфалагічныя працэсы эвалюцыі агульнаславянскай мовы.

Новым імпульсам для развіцця параўнальных даследаванняў у славістыцы стала выданне ў 1924 г. кнігі французскага даследчыка індаеўрапейскіх моў А. Мее «Агульнаславянская мова». Гэта праца абумовіла ўстойлівую цікавасць заходнееўрапейскіх славістаў да праблем славянскай кампаратывістыкі. Паслядоўнік і вучань А. Мее — А. Ваян праз 26 гадоў пачаў выпуск пяцітомнай «Параўнальнай граматыкі славянскіх моў» (1950—77). Натуральна, што большасць параўнальных даследаванняў славянскіх моў праводзілася і праводзіцца славянскімі мовазнаўцамі. У 1938 г. выдадзена кніга славенца Р. Нахцігала «Славянскія мовы», у якой аўтар разглядаў фанетыку і марфалогію праславянскай мовы пазнейшага перыяду, яе рэфлексы ў сучасных славянскіх мовах. Балгарскі вучоны І. Лекаў у 1940—60-я гады даследаваў агульныя рысы балгарскай і ўсходнеславянскіх моў, агульнасць і адрозненне іх граматычнага ладу, развіццё славянскіх фаналагічных сістэм (гл. **Лекаў Іван**). Укладам у праблему сталі даследаванні С. Б. Бернштэйна па гістарычнай фанетыцы, чаргаваннях і гісторыі іменных асноў славянскіх моў. Паводле М. І. Талстога, гэтыя працы застаюцца і зараз у нашай краіне асноўнай крыніцай звестак па праславянскай і агульнаславянскай гістарычнай фанетыцы, а даследаванне чаргаванняў — «адкрыццё ў кампаратыў-

най славістыцы, якое пакуль што не мае прэцэдэнту». Своеасаблівы дапаможнік, які спалучае параўнальную граматыку славянскіх моў і ўводзіны ў славянскую філалогію, стварыў чэшскі славіст К. Горалек. Акрамя разнастайных звестак па гісторыі славянскай кампаратывістыкі, у яго «Уводзінах у вывучэнне славянскіх моў» (1955) змешчана даволі падрабязная тагачасная бібліяграфія.

Цікавасць да параўнальнай марфалогіі аб'ядноўвае працы савецкіх лінгвістаў П. С. Кузняцова («Нарысы па марфалогіі праславянскай мовы». М., 1961) і Ц. П. Ломцева («Параўнальна-гістарычная граматыка ўсходнеславянскіх моў: Марфалогія». М., 1961). Польскі вучоны З. Штыбер у 1969—73 гг. стварыў навучальную параўнальную граматыку, дзе вельмі кампактна і дакладна на багатым гістарычным і дыялектным матэрыяле адлюстраваў сваё разуменне шляхоў развіцця славянскай фанетыкі і марфалогіі. У 1966 г. на Украіне пад рэдакцыяй А. С. Мельнічука выдадзены дапаможнік па параўнальна-гістарычным славянскім мовазнаўстве. Беларускі лінгвіст М. І. Гурскі напісаў «Параўнальную граматыку рускай і беларускай моў» (1972), дзе выкарыстаў матэрыял і ўкраінскай мовы. У Югаславіі ўбачыла свет «Славянская параўнальная граматыка» С. Іўшыча. У Тарту Б. М. Гаспараў і П. С. Сігалаў выдалі па гэтай тэме двухтомны дапаможнік для студэнтаў. У Маскве выйшаў пераклад кнігі Р. Башковіча «Асновы параўнальнай граматыкі славянскіх моў» (1984), у якой ёсць раздзелы па фанетыцы і словаўтварэнні.

Уклад у славянскую кампаратывістыку зрабілі і мовазнаўцы неславянскіх краін. У галіне параўнальнай фанетыкі славянскіх моў працавалі ў свой час Р. Якабсон (ЗША), В. Ф. Марэш (Аўстрыя), Г. У. Шавялёў (ЗША), нарвежскі лінгвіст К. Станг. Немец Г. Броер і фін Й. Мікала апублікавалі параўнальныя граматыкі славянскіх моў. Н. Ван-Дэйк выдаў у Парыжы ў 1937 г. кнігу «Славянскія мовы: еднасць і адрозненне». У ЗША у галіне славянскай кампаратывістыкі працуюць Г. Бірнбаум, Х. Г. Лант і інш.

Адна з асноўных мэт стварэння параўнальных граматык — рэканструкцыя праславянскай мовы. Калі супастаўленне славянскіх моў з іншымі індаеўрапейскімі мовамі дазваляе гаварыць пра факты праславянскай мовы ранняга перыяду, то ўласна славянскія параўнанні даюць звесткі пра больш позні стан агульнаславянскай мовы. Акрамя таго, параўнальнае вывучэнне славянскіх моў мае вялікую каштоўнасць для агульнага мовазнаўства: яно ўносіць свой уклад у разуменне дынамікі развіцця сістэмы мовы ў цэлым і яе асобных фрагментаў.

Разгляд славянскіх моў у параўнальным аспекце выяўляе іх месца сярод іншых моў свету, а таксама дазваляе асэнсаваць становішча асобных славянскіх моў сярод іншых моў славянскай групы. Так, у галіне славянскай фанетыкі беларуская мова належыць да шматфанемнай падгрупы (40 фанем) з адносна малой колькасцю галосных фанем (каля 17%) і сярэдняй агульнай частотнасцю галосных і зычных у тэкстах (на 100 галосных фанем у сярэднім прыпадае 136 зычных).

Цікавая праблема параўнальнай граматыкі — параўнальнае даследаванне граматычных катэгорый. З аднаго боку, параўнанне граматычных катэгорый як фармальных частак светапогляду носьбітаў мовы дае звесткі пра супольнасць і непадабенства тых ці іншых элементаў пазнання свету ў розных славянскіх народаў, а з другога — дазваляе ўбачыць шляхі ўзнікнення фармальных адрозненняў у граматычных катэгорыях блізкародных моў. Гэтыя адрозненні ў большасці выпадкаў датычаць асаблівасцей ужывання граматычных форм у розных славянскіх мовах. Так, можна гаварыць пра рэдкасць кароткіх форм прыметнікаў у беларускай мове ў параўнанні з рускай ці пра абмежаванае ўжыванне дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу і г. д. Ёсць і тыпалагічныя адрозненні сярод славянскіх моў. Так, аналітызм балгарскай і македонскай моў процістаіць сінтэтызму астатніх славянскіх моў. У славянскай моўнай групе маюцца і асаблівасці, што датычаць зместу граматычных катэгорый: у сербалужыцкіх, славенскай і палабскай мовах захаваўся парны лік, у славенскай — супін і г. д.

Вывучэнне параўнальных граматык славянскіх моў мае і прыкладны характар для перакладу і навучання мовам. Даныя параўнальнага вывучэння славянскіх моў могуць выкарыстоўвацца ў вырашэнні лінгвістычных праблем, звязаных з узаемадзеяннем моў. Напрыклад, патрабуюць аналізу пытанні ўзаемадзеяння беларускай і польскай, беларускай і ўкраінскай моў. Вынікі параўнальнага даследавання славянскіх моў маюць значэнне і для прац па славянскай дыялекталогіі, беларуска-рускім двухмоўі на Беларусі і інш.

*Літ.:* Бирнбаум Х. Праславянский язык: Достижения и проблемы в его реконструкции: Пер. с англ. М., 1987; Мейе А. Общеславянский язык. М., 1951; Вступ до порівняльно-історичного вивчення слов'янських мов. Київ, 1966; Бернштейн С. Б. Очерк сравнительной грамматики славянских языков. Т. 2. Чередования. Именные основы. М., 1974; Гаспаров Б. М., Сигалов П. С. Сравнительная грамматика славянских языков. Ч. 1—2. Тарту, 1974.

*А. В. Зінкевіч.*

## ПАРАЎНАЛЬНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ

У вуснай і пісьмовай мове часта карыстаюцца параўнальнымі канструкцыямі. Той, хто хоча звярнуць увагу на памеры чаго-небудзь, можа сказаць: *вялікі, як свет; доўгі, як жэрдка; малюсенькі, як камаровы насок.* Выразна характарызуюць паводзіны людзей параўнанні *вяртлявы, як уюн; баязлівы, як заяц; лезе, як дым у вочы* і інш. Параўнальныя канструкцыі — гэта сінтаксічныя структуры (звароты, сказы, прэдыкатывы) з абавязковым кампанентам, які змяшчае ў сабе параўнанне: *Я ведаю многа песень чужых,// усё ж тыя жніўныя, родныя,//* ***як жураўліны асенні крык,****//навекі мяне запалонілі* (Л. Геніюш). ***Як мёд пчала збірае рупна ў соты,*** *збіраем скарб з зямлі і з-пад зямлі* (Я. Купала); *Зоры —* ***як і людзі:*** *горнуцца адна да аднае, ім сумна свяціць на адзіноце* (К. Кірэенка). Паказчыкам параўнальных адносін у такіх канструкцыях выступаюць злучнікі *як, быццам, нібы, усё роўна як* і інш.

Параўнанне, на якім асноўваецца кожная параўнальная канструкцыя,— адзін са сродкаў пазнання і ўспрымання рэчаіснасці. Пільнае людское вока прыкмячае падобныя ўласцівасці прадметаў і з'яў, бачыць агульныя і прыватныя праявы жывой і нежывой прыроды. Чалавек усведамляе тонкія адценні свайго фізічнага і псіхічнага стану, заўважае адметнасць стану іншых асоб і жывых істот. Усё гэта адлюстроўваецца ў параўнальных канструкцыях, якіх нямала ў фальклорных і літаратурных творах. У народнай казцы «Іванка Прасцячок», напрыклад, чытаем: *Гудзе дудка, грае, то зацягне тонка, от* ***бы повуцінка,*** *то так дробненька зашчабеча, што ў паноў аж лыткі затрасуцца, а мароз бяжыць па спіне,* ***быццам мыш туды залезла да й скрабецца пазурамі.*** Я. Колас, характарызуючы становішча беларускай вёскі перад рэвалюцыяй 1905 г., пісаў у трылогіі «На ростанях»: *Звычайнае людское жыццё выбілася з каляіны і спынілася, а калі дзе трохі і рухалася, то рухалася* ***як павозка, у якой зламалася адно кола.*** Праз параўнанне сялянскага жыцця ў складаны гістарычны перыяд з рухам паламанай павозкі, якая страціла надзейную апору, адчуваем, што нешта павінна адбыцца: так далей жыць (як і ехаць) нельга, вёска знаходзіцца напярэдадні вялікіх падзей.

Параўнальнымі канструкцыямі ўмела карыстаюцца мастакі слова. Для іх параўнанне — выразны від тропа, адзін са спосабаў характарыстыкі прадметаў і з'яў рэчаіснасці праз супастаўленне іх з іншымі, нечым падобнымі прадметамі і з'явамі жыцця. Я. Брыль, напрыклад, любіць

апісваць *бязмежныя,* ***як неба,*** *прасторы жыта,* Ф. Янкоўскі захапляўся *чыстай і светлай,* ***як з расы,*** *святой Свіцяззю,* П. Панчанка заклікае *біцца за праўду — і выжыць,* ***нібы салдат у баі,*** у аповесці В. Быкава «Аблава» ўвагу чытача спыняюць наступныя радкі з выразным параўнаннем: *Пасля дажджоў... заліло і імшарыну, якая,* ***бы цеста на дражджах,*** *пачала пухнуць мяккім вільготным мохам.*

Параўнальны зварот — самая пашыраная форма выражэння параўнання ў беларускай мове. Ён уводзіцца ў тэкст пры дапамозе злучнікаў *як, нібы, бы, быццам, як быццам, што, усё роўна як, усё роўна што* і інш. У сінтаксічных канструкцыях са злучнікамі *як, што* параўнанне мае сцвярджальны характар: *Незнаёмая дзяўчына... апусціла чорныя,* ***як смоль,*** *вочы* (Я. Колас). Злучнікі *бы, нібы, быццам, як быццам* надаюць параўнанню ўмоўны, меркавальны характар, і яно набывае мадальную афарбоўку: *Квяцістыя зоры,* ***бы дыяменты,*** *усыпаюць усё неба* (Я. Колас). Параўнальны зварот бывае аднаслоўны, тады ён складаецца толькі са словаформы назоўніка, прыметніка, прыслоўя або асобых дзеяслоўных форм [*Галіны* ***як крыжы*** (Я. Купала); *Старая ляжыць ціха,* ***бы нежывая*** (Б. Сачанка); *Нават смяялася цяпер Ганна інакш,* ***як дасюль*** (І. Мележ); *Валасы блішчаць, як* ***намочаныя*** (У. Караткевіч)], і разгорнуты, з адным ці некалькімі залежнымі словамі [*Палкоўнік — наш Алік — паклаў на стэлажы, сярод маіх кніжак, мякчэйшы за пух і цёплы,* ***як душа сябра,*** *світар і запіску...* (Ф. Янкоўскі)].

Вылучаюцца вобразныя параўнальныя звароты: *Мая Беларусь, у рамонку і верасе,//Цябе не на жарты зрабіць я намерыўся//Багатай, шчаслівай,//****Як песня,*** *прыгожай* (П. Панчанка); *Зоркі,* ***як змоўшчыцы,*** *бачылі ўсё* (Я. Брыль) і параўнальна-раўналежныя: *Паселішчы,* ***як і людзі,*** *без біяграфіі не маюць свайго абліччa* (Я. Скрыган); *Гумар у Труса,* ***як і ўся яго творчасць,*** *быў трапны і родны* (М. Лужанін).

У канструкцыях з вобразным параўнальным зваротам найчасцей супастаўляюцца два прадметныя паняцці: *Словы ў яго былі,* ***як арэхі,*** *адно ў адно* (Я. Брыль); *Праўда чыстая,* ***як дзіцячыя*** *вочы* (Н. Гілевіч). Асновай такіх параўнанняў становяцца падобныя ці блізкія прыкметы названых прадметаў. Напрыклад, белы колер мае снег, палатно, малако. Гэтыя словы могуць набыць характарыстычнасць у параўнальных канструкцыях, якія вобразна азначаюць асобу, яе знешні выгляд або адценні колеру іншых прадметаў: *Анямелы ад страху,* б л е д н ы, ***як палатно,*** *паплёўся Грыша з салдатам* (Я. Колас); *Кажуць людзі: ў год раз ночкай з гуслямі дзед//З кургана,* ***як снег,*** б е л ы *выходзе* (Я. Купала); *Тут сыр,* ***як першы снег,*** б я л ю т к і (Я. Колас); *Дзяўчына лягла, як з ружы цвяточак,//Дзяўчына ўстала,* ***як белы платочак*** (Народная песня). Такія параўнальныя звароты з'яўляюцца сродкам стварэння мастацкіх замалёвак жыцця. Іх, як і метафары, можна параўнаць з адзеннем, якое спачатку вынайшлі з неабходнасці, а потым сталі асэнсоўваць як «акрасу» (Цыцэрон).

У адрозненне ад вобразных параўнальна-раўналежныя звароты падкрэсліваюць толькі адпаведнасць прыкмет або дзеянняў тых самых прадметаў у розны час ці розных прадметаў у той самы перыяд: *Нідзе так звонка не чуваць спеў жаваранка,* ***як у полі*** (Я. Брыль); *Асцярога і асцярожнасць ужо іх прытаміла,* ***як і мяне*** (Ф. Янкоўскі).

Параўнальны зварот, характарызуючы прадмет, прыкмету прадмета, якасць дзеяння, цесна «ўрастае» ў сказ, выконваючы функцыю яго члена. Калі асновай параўнання выступае дзеянне або адна з прыкмет яго праяўлення, параўнальны зварот з'яўляецца акалічнасцю: *Я прыйшоў да цябе, бо хачу бачыць цябе, хачу чуць твой голас: ён гучыць для мяне,* ***як песня, як прамень сонца,*** *асвятляе мне дарогу* (Я. Колас). *Грукатаў гром глуха,* ***як пад зямлёю*** (І. Пташнікаў). Параўнальны зварот можа быць і выказнікам у сказе: *Вочы —* ***нібы дзве чарэшні ў дождж*** (А. Карпюк). Параўнальныя звароты, якія канкрэтызуюць прыкмету прадмета, выконваюць функцыю азначэння: *Вісела ноч, чорная,* ***як пераараная ўвосень зямля*** (І. Пташнікаў). Прэдыкатыўная функцыя параўнальнай канструкцыі звычайна падкрэсліваецца ў вусным маўленні інтанацыйна, а ў пісьмовых тэкстах — графічна:*Радзіма мая —* ***як купальская кветка*** (К. Буйло).

Параўнальныя канструкцыі могуць мець форму няпоўнага або поўнага сказа, якія тлумачыць галоўную частку складаназалежнага сказа: *Кабеты таксама разрумяніліся,* ***як бы тыя пірагі пад Вялікдзень у добрай гаспадыні*** (Я. Колас); *Захацелася раптам узмахнуць рукамі і паляцець над вадою,* ***як лятаюць стрыжы*** (Я. Брыль).

У беларускай мове ёсць і бяззлучнікавыя параўнанні. Яны выражаюцца назоўнікамі творнага склону: ***Срэбнаю стужкаю*** *вывіваўся Нёман* (Я. Колас) і прыназоўнікава-склонавымі формамі імя: *Той славы* ***з макавае зерне,*** *на грош набытку* (П. Панчанка). Бяззлучнікавыя параўнанні часта сустракаюцца ў беларускім фальклоры: *Сеў Іванка на каня, конь стукнуў капытом тры разы і паляцеў,* ***арлом*** *узвіўся ў неба* (Народная казка «Тры браты»); *Кліч, пакліч, міленькі,//Голуб мой сівенькі,//Пайду за табою//****Рыбкай*** *за вадою* (Народная песня). Творны склон параўнання звычайна характарызуе якасць дзеяння асобы ці адухоўленага прадмета не непасрэдна, а праз дзеянне іншай жывой істоты: ***Зверам*** *нясецца ашалелы пан* (Народная казка); *Я да цябе, мілая, //****Сокалам*** *лячу.// — Я да цябе, мілы мой,//****Перапёлачкай*** (Народная песня). Для фальклору характэрныя таксама адмоўныя параўнанні, у якіх знешняе проціпастаўленне дзвюх жыццёвых з'яў выяўляе іх глыбокае ўнутранае супастаўленне. Такім адмоўным параўнаннем пачынаецца паэма Я. Купалы «Бандароўна», напісаная паводле народнай песні: *Не віхор калыша лесам,//****Не ваўкі*** *заводзяць, //****Не разбойнікі*** *гурмою//За дабычай ходзяць.//На Украіне пан Патоцкі,// Пан з Канёва родам,//З сваёй хеўрай гаспадарыць//Над бедным народам.*

Некаторыя параўнальныя канструкцыі страцілі функцыю параўнання і ператварыліся ў эквіваленты слоў, ці інакш — кампаратыўныя фразеалагізмы. Параўнанне *як на далоні* ў выніку фразеалагізацыі набыло значэнне 'ясна, выразна', *як у Бога за пазухай* — 'спакойна, без клопатаў, без трывогі', *як зорак на небе* — 'вельмі многа, безліч', *як маслам па душы* — 'прыемна, лагодна'.

*Літ.:* Б а з ы л е н к а А. М. Параўнальныя словазлучэнні ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: (Па матэрыялах творчасці Я. Коласа) //Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 3; Р а б к е в і ч В. Дзве разнавіднасці вобразных параўнальных зваротаў// Лінгвістычны зборнік. Мн., 1968; Я н к о ў с к і Ф. М. Беларуская народныя параўнанні. Мн., 1973; Б а н д а р э н к а Т. П. Параўнальныя канструкцыі// Беларуская граматыка. Ч. 2. Мн., 1986.

*Г. М. Малажай.*

## ПАЎДНЁВА-ЗАХОДНІ ДЫЯЛЕКТ

Паўднёва-заходні дыялект — адно з буйных тэрытарыяльных аб'яднанняў мясцовых гаворак у складзе асноўнага масіву гаворак беларускай дыялектнай мовы (гл. **Дыялектная мова**). Гэта гаворкі заходняй і цэнтральнай (на поўдзень ад Мінска) частак рэспублікі, уключаючы ўсходнюю частку Палесся. Паўднёва-заходні дыялект размяжоўваецца на поўначы з сярэднебеларускай міждыялектнай групай гаворак (гл. **Сярэднебеларускія гаворкі**) прыблізна па лініі Воранава — Дзяржынск — Бабруйск — Рэчыца. На паўднёвым захадзе рэспублікі ён размяжоўваецца з заходнепалескай групай гаворак (гл. **Заходнепалескія гаворкі**), якая з'яўляецца часткай дыялекту беларуска-ўкраінскага нацыянальнага сумежжа. Гэта таксама і мяжа асноўнага масіву беларускіх гаворак

(гл. **Асноўны масіў беларускіх гаворак**), якая адзначаецца прыблізна па лініі Камянец — Бяроза — Лунінец — Столін.

Гаворкі гэтай тэрыторыі Беларусі аб'ядноўваюцца ў асобны дыялект і адрозніваюцца ад іншых гаворак шматлікімі і значнымі асаблівасцямі. У галіне фанетыкі гэта — недысімілятыўнае (моцнае) аканне *(вада́, трава́, вадо́йу, траво́йу, вадз'ê, трав'ê, вады́, травы́, ваду́, траву́)*, пераважна няпоўнае, з захаваннем у канцавым адкрытым складзе не пад націскам гука [о] *(с'е́но, л'е́то, та́то, мно́го, к'е́пско, чо́рнаго, на́шаго)*, або поўнае оканне *(водá, головá, гóрод, л'е́то)*; недысімілятыўнае (моцнае) яканне *(з'амл'á, с'адз'áц', з'амл'í, с'адз'íц', з'амл'ý, с'аджý, з'амл'óйу* або *з'амл'е́йу, с'адз'е́ў)*, або еканне *(з'емл'á, с'едз'áц', з'емл'í, с'едз'íц', з'емл'ý, с'еджý, з'емл'е́йу, с'едз'е́ў)*, або вымаўленне ненаціскнога галоснага ў гэтых умовах і становішчы, у той ці іншай ступені падобнае і да якаючага і да екаючага *(с'а^е дз'е́ў, с'е^а дз'е́ў* і інш.); закрыты галосны [ê] пад націскам у адпаведнасці з былым ѣ *(л'êс, л'êто, у вадз'ê)* і закрыты галосны [ô] пад націскам у закрытых складах, пераважна ў адпаведнасці з [о] пад націскам у адкрытых складах, калі гэты галосны адпавядае старажытнаму о нерэдукаванаму *(гôд, кôт, парôг, салôдк'і, гадôў*, але ў адкрытым складзе *гóда, кóц'ік, с парóга* і г. д.); мяккія зычныя [с'], [з'], [ц'], [дз'], [л'], [н'] і цвёрдыя [ш], [ж], [ч] у адпаведнасці з гістарычным спалучэннем падобных старажытных зычных з *j* *(плáц'е, судз'á, калóс'е, рыз'é*, або *рыз'ó, гал'é*, або *гал'ó, нас'е́н'е*, або *нас'е́н'о)* або захаванне гэтых спалучэнняў *(плáц'йе, судз'йá, калóс'йе, рыз'йé, гал'йé, нас'е́н'йе)*. У галіне граматыкі для паўднёва-заходняга дыялекту характэрны: канчатак *-а* у назоўніках ніякага роду ў назоўным склоне множнага ліку *(óкна, с'óла, пал'á, п'éра)* і *-е* пад націскам у назоўніках мужчынскага роду *(дамê, нажê, кавал'ê)*; у назоўніках мужчынскага роду пад націскам канчаткі *-ом* у давальным склоне множнага ліку *(дубóм, братóм, карчóм)* і *-ох* у месным склоне *(па дубóх, па братóх, у карчóх)*; канчатак *-ôм* пад націскам (*-ум* не пад націскам) у прыметніках і займенніках у месным склоне адзіночнага ліку жаночага роду *(на крутôм, у сухôм, у тôм, у маôм, у нóвум, у гéтум)*; канчатак *-ойе(-айе* не пад націскам) у родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду прыметнікаў і займеннікаў *(с крутóйе гары́, с тайê хаты, у майê* або *ў майéйе мáц'еры, з нóвайе, да гéтайе пары)*; пераважна канчатак *-ойу(-айу)* у прыметніках, займенніках і назоўніках у творным склоне адзіночнага ліку жаночага роду *(пад крутóйу гарóйу, за тóйу хáтайу, з майéйу дачкóйу, нóвайу дарóгайу, гéтайу парóйу)*; канчатак *-е(-а)* у дзеясловах 1-га спражэння ў 3-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу *(ідз'é, н'ас'é, гул'áйе, п'íша)*, канчатак *-ац'е* ў гэтых жа дзеясловах у 3-й асобе множнага ліку цяперашняга часу *(ідз'ац'é, н'ес'ац'é, гул'áйац'е, п'íшац'е)* і інш.

Мясцовыя гаворкі розных частак паўднёва-заходняга дыялекту маюць і некаторыя адрозненні, па якіх яны аб'ядноўваюцца ва ўнутрыдыялектныя групы, якія супрацьпастаўляюцца адна адной. Паводле групоўкі мясцовых гаворак на аснове «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» паўднёва-заходні дыялект мае дзве ўнутрыдыялектныя групы гаворак: заходнюю і мазырскую. Гэтыя групы размяжоўваюцца прыблізна па рацэ Лань і далей на поўнач па водападзеле рэк Нёман і Пціч.

Заходняя група мясцовых гаворак характарызуецца найбольш выразным і яркім недысімілятыўным яканнем. Выразны галосны [а] вымаўляецца тут у становішчы пасля мяккіх зычных незалежна ад якасці галоснага пад націскам не толькі ў першым складзе перад·націскам, але і ў іншых ненаціскных складах *(с'арадá, б'араг'í, дз'ас'ац'í, п'адз'дз'ас'áт, з'ал'анавáты, п'арадавáц', вóс'ан', н'е́йак, гул'áйаш, гул'áйац'а)*. У гэтых гаворках адзначаецца прыстаўны гук [г] перад націскнымі і ненаціскнымі галоснымі [у], [о] у пачатку слова *(гýл'іца, гýс'ан', гóс'ан', гóчы, гарýц', гараб'íна)*, формы інфінітыва дзеясловаў з асновай на галосныя гукі з канцавым галосным [і] *(брáц'і, раб'íц'і, садз'íці)*, канцавы [о] у канчатках дзеясловаў 1-й асобы множнага ліку цяперашняга часу *(рóб'імо, кóс'імо, крычымó, ідз'емó*, загадны лад — *с'áдз'мо, пайдз'е́мо, с'п'імó)* і інш.

Некаторыя даследчыкі ў гэтай групе гаворак вылучаюць паўночна-заходнюю падгрупу. Адрозніваюць яе ад іншых мясцовых гаворак заходняй групы такія асаблівасці, як вымаўленне галоснага [о] пасля мяккіх зычных у канцавым адкрытым складзе *(кам'е́н'о, в'е́ц'о, гал'о)*, канчатак *-е* ў назоўніках жаночага роду з асновай на мяккія зычныя ў месным склоне адзіночнага ліку *(на м'ажé, у дз'ажé, на шашé, на пн'é)* і інш. Але дамінуюць у ёй усё ж асаблівасці паўночна-заходняй дыялектнай зоны. Таму больш падстаў лічыць гэтыя гаворкі часткай паўночна-заходняй дыялектнай зоны, а не асобнай падгрупай гаворак заходняй групы.

Мазырская група гаворак паўднёва-заходняга дыялекту адрозніваецца ад заходняй многімі асаблівасцямі. Гэта недысімілятыўнае яканне са «звужаным», падобным да гука [е], вымаўленнем галоснага пасля мяккіх зычных не пад націскам *(з'а^е мл'á, с'а^е дз'áц', с'е^а радá, м'е́с'а^е ц)* або нават выразнае еканне *(з'емл'á, с'едз'áц', с'ерада, м'е́с'ец)*, спалучэнне цвёрдых губных зычных з [й] у адпаведнасці з аналагічнымі мяккімі губнымі зычнымі перад [а] у іншых гаворках *(пйац', мйáсо, вйáн'е, жарабйá)*, прыстаўны гук [в] перад націскнымі (і ненаціскнымі) галоснымі [у], [о] у пачатку слова *(вýл'іца, вýс'ен', вóс'ен', вóчы, вачéй)*, мяккі канцавы зычны [с'] у адпаведнасці з неканцавым спалучэннем зычных [с'ц'] у словах *(гос', рáдас', кос')*, захаванне ў дзеясловах з асновай на зычны ў 1-й асобе множнага ліку перад канчаткам *-ôм(-ам)* цвёрдага зычнага асновы *(ідôм, н'асôм, м'атôм, пасôм, п'акôм, стрыгôм)*, цвёрды зычны [с] у зваротным афіксе дзеясловаў, або саканне *(с'м'айáўса, мыўса, памылас)*, канцавы суфікс *-ці* ў дзеясловах з асновай на [г], [к] у неазначальнай форме *(б'е́гц'і, л'е́гц'і, с'е́кц'і, ц'е́кц'і с'ц'ерагц'і, б'ерагц'í)*.

Пры пэўнай агульнасці мясцовых гаворак мазырскай групы ў ёй істотна адрозніваюцца сваімі асаблівасцямі гаворкі яе паўднёвай, усходнепалескай часткі. Вельмі істотнай і яркай рысай гэтых гаворак з'яўляецца паслядоўнае вымаўленне ў тых жа ўмовах, што і пад націскам, галоснага гука [о] не пад націскам, або оканне *(водá, корóва, головá, чолов'е́к, кóлос, гóрод, л'е́то, скóро, нóвого)*. Характэрна для іх таксама еканне. Яркай асаблівасцю ўсходнепалескіх гаворак з'яўляецца галосны [у] пасля губных зычных (пераважна пад націскам) у адпаведнасці з галосным [ы] у іншых гаворках *(бук, мýло, прывýк, снопý, вýл'іў, му, ву, нóвуйе, бáбу)*. Непаслядоўна ўжываецца тут прыстаўны зычны [в] перад націскным галосным [о] у пачатку слова *(óз'еро, óс'ен', óгн'іщче, óко, óсы)*, пашырана вымаўленне галоснага [е] пад націскам перад цвёрдымі зычнымі *(ав'е́с, м'ед, б'е́рдо, в'е́дра, ц'е́мно, дал'е́ко)*, у той час як у астатніх гаворках мазырскай групы ў гэтых умовах мае месца галосны [о], прытым губныя зычныя выступаюць перад ім у спалучэнні з наступным [й] *(аййôс, мйôд, бйôрдо, ўйôдра)*. Захоўваецца спалучэнне мяккіх зычных [с'], [з'], [дз'], [ц'], [л'], [н'] і цвёрдых [ш], [ж], [ч] з [j] *(кам'е́н'йе', гол'йé* і г. д.). Таму мясцовыя гаворкі мазырскай групы іншы раз разглядаюць як 2 асобныя групы ў складзе паўднёва-заходняга дыялекту — усходнепалескую (тураўска-мазырскую) і слуцкую (слуцка-бабруйскую, слуцка-рэчыцкую).

У склад паўднёва-заходняга дыялекту ўключаюць іншы раз заходнепалескую групу мясцовых гаворак як яго састаўную частку. Аднак гэтыя

гаворкі супрацьпастаўляюцца асноўнаму масіву гаворак сучаснай беларускай дыялектнай мовы ў цэлым (у тым ліку і паўднёва-заходняму дыялекту) і ўваходзяць у яе як асобная дыялектная група мясцовых гаворак (частка дыялекту беларуска-украінскага нацыянальнага сумежжа).

Заходняя група мясцовых гаворак паўднёва-заходняга дыялекту мае працяг за мяжой рэспублікі ў Польшчы. Гэта сумежная паўночная частка гаворак усходняй Беласточчыны. Мазырская ж група мясцовых гаворак, у прыватнасці тураўска-мазырская, вельмі блізкая да сумежных з ёй гаворак сярэднепалескай групы паўночнага (*палескага*) дыялекту ў складзе сучаснай украінскай дыялектнай мовы. Аб іх размежаванні і адносінах існуюць розныя меркаванні.

Паўднёва-заходняму дыялекту, асабліва слуцкай і заходняй групе (яе яшчэ называюць гродзенска-баранавіцкай), належыць важная роля ў фарміраванні і развіцці сучаснай беларускай літаратурнай мовы. На асаблівасці гаворак паўднёва-заходняга дыялекту абапіраліся ў сваёй беларускамоўнай літаратурнай творчасці Я. Чачот (Навагрудчына), А. Абуховіч (Случчына), Цётка (Гродзеншчына) і іншыя беларускія пісьменнікі 19 ст. На мове, блізкай да гаворак заходняй групы, звяртаўся да народа ў сваіх публіцыстычных творах К. Каліноўскі. Родная гаворка Стаўбцоўшчыны была асноўнай крыніцай моўных сродкаў для Якуба Коласа — аднаго са стваральнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. У 20 ст. дзякуючы творчасці многіх пісьменнікаў, выхадцаў з паўднёва-заходняй часткі Беларусі (К. Чорны, К. Крапіва, П. Глебка, І. Мележ, Я. Брыль і многія іншыя), роля гэтых гаворак у выпрацоўцы норм літаратурнай мовы, у развіцці і ўзбагачэнні яе слоўніка робіцца вызначальнай.

Генетычнай асновай паўднёва-заходняга дыялекту ёсць пэўныя падставы лічыць дыялект старажытнага усходнеславянскага племя дрыгавічоў. Пашырэнне ў мінулым дыялекту дрыгавічоў на паўднёвым захадзе сучаснай тэрыторыі Беларусі адбывалася шляхам асіміляцыі і замяшчэння гаворак мясцовага балцкага насельніцтва, якое жыло тут да дрыгавічоў. У выніку гэтага адбыліся натуральныя ў падобных абставінах змены ў будове і сродках гэтага дыялекту дрыгавічоў. Адначасова ішло і ўзаемадзеянне з гаворкамі, якія ўтвараліся на аснове племяннога дыялекту смаленска-полацкіх крывічоў, якія пашыраліся сюды з усходу. Гэтым тлумачыцца ўзнікненне розных асаблівасцей гаворак заходняй групы, а таксама і слуцкіх гаворак паўднёва-заходняга дыялекту, якія з'яўляюцца больш познімі ў параўнанні з асаблівасцямі мясцовых гаворак усходнепалескай групы. У гукавым і граматычным абліччы ўсходнепалескіх гаворак і ў іх слоўніку захавалася шмат цікавых з'яў не толькі з усходнеславянскай, але і з агульнаславянскай моўнай старажытнасці. Гл. карту да артыкула **Дыялектная мова** на с. 58.

*Літ.:* Сербов И. А. Белорусы-сакуны: Краткий этногр. очерк. Пг., 1915; Воўк-Левановіч І. В. Важнейшыя рысы гаворкі вёскі Татаркавічы і гаворак ваколічных вёсак // Зап. аддз. гуманіт. навук Ін-та беларускай культуры. Мн., 1928. Кн. 2. Працы класа філалогіі. Т. 1; Мацкевіч Ю. Ф. Дыялектныя асаблівасці паўднёвабеларускіх гаворак // Матэрыялы першай дыялекталагічнай канферэнцыі БССР. Мн., 1950; Бірыла М. В. Гаворкі Чырвонаслабодскага раёна Мінскай вобласці // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 4; Янкоўскі Ф. М. Нарыс фанетыкі гаворак Глускага раёна // З даследаванняў па беларускай і рускай мовах. Мн., 1961; Яго ж. Дыялектны слоўнік. [Вып.] 1—3. Мн., 1959—70; Полесье: (Лингвистика. Археология. Топонимика). М., 1968; Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1968—69; Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мн., 1971; Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мн., 1972; Яе ж. Слоўнік Гродзенскай вобласці. Мн., 1983; Никончук М. В. Матеріали до лексичного атласу української мови: (Правобережне Полісся). Київ, 1979; Янкова Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. Мн., 1982; Тураўскі слоўнік. Т. 1—5. Мн., 1982—87; Назарова Т. В. Лінгвістичний атлас Ніжньої Прип'яті. Київ, 1985; Климчук Ф. Д., Кривицкий А. А., Никончук Н. В. Полесские говоры в составе белорусского и украинского языков // Полесье. Материальная культура. Киев, 1988; Бузук П. Да характарыстыкі дыялектаў паўднёвабеларускіх і пераходных да ўкраінскіх // Бел. лінгвістыка. Мн., 1991. Вып. 40; Federowski M. Lud białoruski: Materjały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877—1905. T. 1—8. Kraków; Warszawa, 1897—1981; Moszyński R. Polesie wschodnie: Materiały etnograficzne z wschodniej części b. powiatu Mozyrskiego oraz z powiatu Rzeczyckiego. Warszawa, 1928; Pietkiewicz Cz. Polesie Rzeczyckie: Materjały etnograficzne. Cz. 1. Kultura materjalna. Kraków, 1928; Яго ж. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego: Materjały etnograficzne. Warszawa, 1938; Teksty gwarowe z Białostoczczyzny z komentarzem językowym. Warszawa, 1972. Nr 18; Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. T. 1. Wrocław etc., 1980.

*А. А. Крывіцкі.*

## ПАЎДНЁВАСЛАВЯНСКІЯ МОВЫ

Паўднёваславянскія мовы — група славянскіх моў, у якую ўваходзяць славенская, сербскахарвацкая, ці харвацкасербская (заходняя падгрупа), македонская і балгарская (усходняя падгрупа) з шэрагам пераходных гаворак паміж імі. Пашыраны яны на Балканскім паўвостраве ў Славеніі, Харватыі, Македоніі, Босніі і Герцагавіне, Новай Югаславіі і ў сумежных з імі краінах (Аўстрыі, Албаніі, Венгрыі, Грэцыі, Румыніі, Украіне), а таксама ў іншых краінах Еўропы, Амерыкі, Аўстраліі. Размаўляе на іх прыблізна 30 млн. чалавек.

Паводле паходжання да гэтай групы адносіцца першая пісьмовая мова славян — старaславянская (з сярэдзіны 9 ст.), якая зрабіла велізарны ўплыў на ўсе славянскія мовы (гл. **Старaславянская мова**), а таксама рад мікрамоў (моў этнічных груп): градзішчанская (Аўстрыя), малізская і разьянская (Італія), прэкмурская (Славенія, Аўстрыя, Венгрыя), чакаўская і кайкаўская (Харватыя), банацка-балгарская (Румынія), якія зараз функцыяніруюць, і эгейска-македонская і венецыянска-славенская, якія не атрымалі пашырэння. Мікрамова русінаў (Ваяводзіна), хоць і ўключае некаторыя даволі позкія паўднёваславянскія рысы, да гэтых моў не адносіцца: па паходжанні яна з'яўляецца мовай змешаных славацка-украінскіх вёсак усходняй Славакіі.

Адзінай для паўднёвых славян прамовы ў мінулым не існавала, таму што славянскія плямёны ў параўнальна кароткі час (сярэдзіна 1-га тысячагоддзя н. э.) двума шляхамі (праз Мараўскія вароты і тэрыторыю на ўсход ад Карпат) засялілі даволі вялікую тэрыторыю. Сучасныя паўднёваславянскія мовы (а таксама румынская) на Балканскім паўвостраве не з'яўляюцца аўтахтоннымі: яны выцеснілі старажытныя мовы насельніцтва паўвострава (ілірыйскую, фракійскую, дакійскую), наслаіліся на гэтыя субстраты, актыўна ўзаемадзейнічаючы паміж сабой. Таму ў кожнай з паўднёваславянскіх моў праславянская архаіка перамяжоўваецца з інавацыямі. У выніку складанага ўзаемадзеяння розных фактараў, у тым ліку і моў народаў неславянскага паходжання, што жылі на Балканскім паўвостраве (албанцы, грэкі, арамуны, румыны), некаторыя паўднёваславянскія мовы набылі агульныя рысы, т. зв. балканізмы, якія ўзніклі ў рамках балканскага моўнага саюза (страта сінтэтычных іменных форм і замена іх аналітычнымі канструкцыямі, выкарыстанне постпазіцыйнага члена-артыкля, страта інфінітыва і замена яго апісальнымі канструкцыямі, выкарыстанне апісальных форм будучага часу з дзеясловам са значэннем 'хацець', балканскі тып утварэння лічэбнікаў ад 11 да 19 і інш.). У выніку накладання двух шматмоўных арэальных комплексаў — паўднёваславянскага і балканскага — у зоне балгара-македона-паўднёва-ўсходнесербскіх гаворак узнік балканаславянскі арэал. Калі параўноўваць паў-

днёваславянскую групу моў з заходняй ці ўсходняй, то тут адзінства не такое відавочнае. Тым не менш можна назваць шэраг моўных рыс, агульных для ўсіх паўднёваславянскіх моў: пераход праславянскіх груп зычных *gv'-, kv'-* у *zv-, cv-* (сербскахарвацкае *звѐзда, цвêт,* як ва ўсходнеславянскіх); *-dl-, -tl-* спрасцілася ў *-l-* (сербскахарвацкае *jèla* 'яліна', славенскае *mòliti se,* сербскахарвацкае *рȁло*); праславянскія **tort, *tolt* перайшлі ў *trat, tlat* (балгарскае *брада,* сербскахарвацкае *влâс,* славенскае *grâd, strán,* харвацкае *strána*), а *tert, telt* у *trět, tlět* (стараславянскае *брѣгъ, млѣко*), як у заходнеславянскіх мовах.

Рысы, характэрныя толькі паўднёваславянскім мовам: пераход праславянскага *ę* ў *e* (параўнайце польскае *pięć, miesiąc* — сербскахарвацкае *pêт, mjȅsec,* балгарскае, македонскае *пет, месец)*; зычныя перад *е, і* не змякчаюцца; пераход праславянскага *y* [ы] у *і* (сербскахарвацкае *сȋ мйти* 'мыць', балгарскае, македонскае *син, кобила)*; праславянскае **ort, *olt* пры зыходнай інтанацыі перайшлі ў *rat, lat* (балгарскае *равен, лакът,* македонскае *рамен, лакат,* сербскахарвацкае *ра́вен, ла̂ка̂т,* славенскае *ráven, lâkât)*; агульная лексіка (сербскахарвацкае *жи̏ца,* славенскае *žȉca,* балгарскае, македонскае *жица* 'нітка', 'дрот'; сербскахарвацкае *брȏj,* славенскае *brȍj,* балгарскае *брой,* македонскае *броj*); шырокае ўжыванне злучніка *да* (напрыклад, сербскахарвацкае *и ja вам велим, да je сам Бог хтио, да буде оважеља изречена* 'я кажу вам, што сам Бог хацеў, каб гэта жаданне было выказана', македонскае *отиде жената да пита по селата да му носи леп на Јакуф да jaде* ' пайшла жонка прасіць па вёсках, каб прынесці Якубу хлеба паесці'.

Акцэнтуацыя ў паўднёваславянскіх мовах не аднолькавая. Ва ўсходняй падгрупе націск монатанічны, у балгарскай і ўсходніх гаворках сербскахарвацкай мовы — разнамесны, у македонскай мове — фіксаваны. У заходняй зоне націск політанічны, разнамесны, па-рознаму ў дыялектах.

У выніку гістарычнага развіцця граматычнай сістэмы ў мовах і гаворках па-рознаму адбылася перабудова: у македонскай і балгарскай мовах страчаны інфінітыў і іменнае скланенне, паявіўся артыкль, замест старых ступеняў параўнання маюць месца прыставачныя ўтварэнні; захавалася складаная сістэма прошлых часоў. У славенскай мове захаваўся парны лік і супін.

У лексіцы ў выніку працяглых канчаткаў з іншамоўным насельніцтвам ёсць шэраг запазычанняў з турэцкай, грэчаскай, нямецкай, венгерскай, рускай і раманскіх моў.

На гэтай тэрыторыі ўзніклі старажытныя славянскія алфавіты — глаголіца (функцыяніравала да 1-й паловы 20 ст. ў якасці рэгіянальнага царкоўнага пісьма ў харватаў) і кірыліца, якой карыстаюцца сербы, македонцы, балгары (гл. **Кірыліца**). Славенцы і харваты ўжываюць лацінскі шрыфт (гл. **Лацінка**). Сучасныя літаратурныя паўднёваславянскія мовы ўзніклі ў розны час (з 1-й паловы 20 ст. да 1945 г.) у розных сацыяльна-гістарычных умовах (гл. таксама **Балгарская мова, Македонская мова, Сербскахарвацкая мова, Славенская мова**).

*Літ.:* Дуличенко А. Д. Славянские литературные микроязыки: Вопр. формирования и развития. Таллинн, 1981; Цыхун Г. А. Типологические проблемы балканославянского языкового ареала. Мн., 1981; Супрун А. Е. Введение в славянскую филологию. 2 изд. Мн., 1989; Куркина Л. В. Диалектная структура праславянского языка по данным южнославянской лексики. Любляна, 1992; Jurančič J. Južnoslovanski jeziki. Ljubljana, 1957. *І. І. Лучыц-Федарэц.*

## ПАЎЛЕНКА МІКАЛАЙ АНДРЭЕВІЧ



Беларускі мовазнавец М. А. Паўленка нарадзіўся 26 чэрвеня 1926 г. ў с. Савінка Паласаўскага раёна Валгаградскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1954 г. скончыў аддзяленне рускай мовы і літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Працаваў там на кафедры рускай мовы і агульнага мовазнаўства, на кафедры агульнага і славянскага мовазнаўства, з 1980 г. займаў пасаду прафесара. Доктар філалагічных навук (1979). У 1966—68 гг. чытаў лекцыі па агульным мовазнаўстве і рускай мове ў Інстытуце рускіх даследаванняў універсітэта імя Дж. Неру ў Індыі, з 1985 г. працаваў дырэктарам філіяла Інстытута рускай мовы імя А. С. Пушкіна ў Празе, дзе раптоўна памёр 10 мая 1987 г.

М. А. Паўленка — аўтар многіх прац па беларускай і рускай мовах і агульным мовазнаўстве. У манаграфіі «Нарысы па беларускаму словаўтварэнню: Жаночыя асабовыя намінацыі ў старабеларускай мове» (1978) на багатым фактычным матэрыяле помнікаў старабеларускай мовы прааналізаваў назвы жаночых асоб, утвораныя пры дапамозе розных суфіксаў, вызначыў станаўленне і функцыяніраванне словаўтваральных мадэлей, структурныя і семантычныя адносіны паміж утваральнымі і вытворнымі асновамі, раскрыў варыянтнасць і аднакарэнную сінанімію фемінатываў. Манаграфія з'явілася значным укладам у распрацоўку праблем беларускага словаўтварэння.

Многа ўвагі М. А. Паўленка ўдзяляў стварэнню вучэбных дапаможнікаў для вышэйшых навучальных устаноў. Ён аўтар дапаможнікаў «Уводзіны ў мовазнаўства» (1962) і «Кароткі нарыс гісторыі пісьма» (1965), які другім, перапрацаваным і дапоўненым,выданнем выйшаў у 1987 г. пад назвай «Гісторыя пісьма». У ім паказана, як пісьмо ўзнікла і якія этапы развіцця прайшло, ахарактарызавана сутнасць самага старажытнага пісьма — піктаграфічнага і розных пазнейшых відаў — ідэаграфічнага, складовага (сілабічнага) і літарна-гукавога (фанематычнага). Пры характарыстыцы відаў славянскага пісьма асобны параграф прысвечаны беларускаму пісьму.

*Тв.:* Назоўнікі на -осць (-асць) ад вытворных асноў прыметнікаў у беларускай мове // Даследаванні па беларускай і рускай мовах. Мн., 1958; Назоўнікі на -ств-о (-ств-а) са зборным значэннем у беларускай мове // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1961. Вып. 8; Эквиваленты суффикса -тель русского языка в современном белорусском языке // Сб. науч. работ БГУ. Мн., 1967. Вып. 2; Жаночыя асабовыя намінацыі ў беларускай мове XIX — пачатку XX ст. // Весн. БДУ. Сер. 4. 1975. № 2; Словаўтваральнае вар'іраванне асабовых назоўнікаў у беларускай мове XIX ст. // Бел. мова і мовазнаўства. Мн., 1975. Вып. 3. *І. К. Германовіч.*

## ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНІ ДЫЯЛЕКТ

Паўночна-ўсходні дыялект — адно з буйных тэрытарыяльных аб'яднанняў мясцовых гаворак у складзе асноўнага масіву гаворак беларускай дыялектнай мовы (гл. **Дыялектная мова**). Гэта гаворкі паўночнай і ўсходняй частак рэспублікі, прыблізна на поўнач ад лініі Мядзел — Барысаў — Быхаў — Чачэрск.

Мясцовыя гаворкі гэтай тэрыторыі аб'ядноўваюцца ў дыялект многімі аднолькавымі асаблівасцямі. У галіне фанетыкі гэта дысімілятыўнае аканне *(въдá, тръвá,* але *вадз'é, трав'é, вадóй,*

*травóй, вады́, травы́, вадý, травý)* і дысімілятыўнае яканне *(з'імл'á, с'ідз'áц', але з'амл'é, с'адз'éў, з'амл'í, с'адз'íц', з'амл'ý, с'аджý)*; галосны гук [е] пад націскам у адпаведнасці з былым *ѣ (л'ес, л'éта,* у *вадз'é)*, галосны гук [о] пад націскам у закрытых складах *(год, кот, парóг, салóдкі, садóў)*; мяккі і цвёрды зычныя гукі [р'] і [р] *(р'áбы, б'ар'óза, стар'íк; кур'ý, ц'ап'éр',* але *грак, карова, рыба, рука)*; падоўжаныя мяккія зычныя [ц'ц'], [дз'дз'], [с'с'], [з'з'], [л'л'], [н'н'] і цвёрдыя [шш], [жж], [чч] у адпаведнасці з ранейшым спалучэннем падобных непадоўжаных зычных з *j (плáц'ц'а, судз'дз'á, валóс'с'а, гр'áз'з'у, іл'л'éш, гул'áн'н'а)*; паслядоўнае вымаўленне зычнага гука [в] перад націскнымі галоснымі [у], [о] у пачатку слова або пасля галоснага ў сярэдзіне яго *(вýха, вýл'іца, вóка, Вóрша, павóдл'а, павýк)*. У галіне граматыкі гэта канчатак *-ы(-і)* у назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага *(гады́, нажы́, стаг'í, къвал'í)* і ніякага роду *(вóкны, с'óлы, пал'í, вýл'л'і)*; у назоўніках мужчынскага роду пад націскам канчатак *-ам* у давальным склоне *(дубáм, братáм, кустáм)* і *-ах* у месным склоне множнага ліку *(у дубáх, пъ бр'ътáх, у кустáх)*; канчатак *-ым(-ім)* у месным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду ў прыметніках і займенніках *(на крутым, у майíм, у тым)*; пераважнае пашырэнне канчаткаў *-óй(ъй)* у прыметніках і займенніках у творным склоне адзіночнага ліку жаночага роду (а таксама і ў назоўніках жаночага роду: *за крутóй гарóй, за той, з' йой, з нóвъй, з ус'áкъй)*; вымаўленне з канцавым гукам [й] канчаткаў прыметнікаў у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду *(худы́й* або *худéй, сух'íй* або *сух'éй, нóвый, н'íйák'ій)*; канчаткі *-ец', -іц'(-ыц')* у дзеясловах у 3-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу *(ідз'éц', н'ас'éц', гул'áйіц', п'íшыц',* як і *б'яжы́ц', нóс'іц')*; канчатак *-ыц'ó (-іц'ó)* з націскным канцавым [о] у пэўных дзеясловах у 2-й асобе множнага ліку *(ідз'іц'ó, п'íчыц'ó, с'ідз'іц'ó, кр'íчыц'ó, л'л'іц'ó)*.

Аднак некаторыя з гэтых агульных асаблівасцей у розных тэрытарыяльных частках паўночна-ўсходняга дыялекту выступаюць неаднолькава паслядоўна. Ёсць і мясцовыя асаблівасці, якімі адрозніваюцца гаворкі тэрытарыяльных частак. Таму гаворкі паўночна-ўсходняга дыялекту падзяляюцца на ўнутрыдыялектныя групы. Паводле групоўкі гаворак на падставе «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» паўночна-ўсходні дыялект складаюць тры групы гаворак: паўночная, віцебска-магілёўская і полацкая.

Паўночная група гаворак адрозніваецца ад іншых паўночна-ўсходніх гаворак наступнымі найбольш прыкметнымі асаблівасцямі: канчаткі назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў у творным склоне множнага ліку падобныя да канчаткаў у давальным склоне *(ішл'í з мълады́м л'удз'áм, дарóга за ты́м хáтъм, дз'éлъц' свайíм рукáм)*; канчатак *-ы* ў назоўніках жаночага роду з цвёрдай асновай у давальным і месным склонах адзіночнага ліку *(к с'ц'аны́, к хáты, к гълавы́, нъ с'ц'аны́, у хáты, пъ гълавы́)*; канчатак *-ом* у дзеясловах *есці* і *даць* у 1-й асобе множнага ліку цяперашняга часу *(йадз'óм, дадз'óм)*. Гэта група гаворак у адпаведнасці з яе назвай з'яўляецца самай паўночнай часткай дыялекту. Адзначаныя і некаторыя іншыя асаблівасці назіраюцца прыкладна да мяжы Свір — Лепель — Віцебск.

Полацкая група характарызуецца перш за ўсё невыразным тыпам дысімілятыўнага акання, якое збліжаецца з недысімілятыўным аканнем *(ваъдá, траъва',* але *вадз'é, грав'é, вадóй, травóй, вадý, травý, вады́, травы́)* і прыкладна такім жа дысімілятыўным яканнем *(з'іᵉмл'á, с'іᵉдз'áц'* або нават *з'еᵃмл'á, с'еᵃдз'áц',* але *з'амл'é, с'адз'éц', з'амл'óй, з'амл'ý, с'аджý, з'амл'í, с'адз'íц')*; толькі цвёрдым вымаўленнем гука [р] *(курý, тры, граз', рабы́, б'арóза,* як і *рукá, дарóга, гарá, ры́ба)*. У назоўніках жаночага роду з асновай на [г], [х], [к] у давальным і месным склонах адзіночнага ліку ў аснове перад канчаткам паслядоўна вымаўляюцца зычныя [з'], [с'], [ц'] *(страс'é, наз'é, дарóз'і, руцé, лáўца, на страс'é, на наз'é, пъ дарóз'і, на руцé, у шáпца)*. Гэту групу складаюць гаворкі заходняй часткі дыялекту прыблізна да лініі Полацк — Талачын — Магілёў — Карма.

Паўночную і полацкую групы гаворак іншы раз лічаць таксама за адну непадзельную заходнюю (полацкую) групу ў складзе паўночна-ўсходняга дыялекту.

Гаворкі віцебска-магілёўскай групы, усходняй часткі паўночна-ўсходняга дыялекту вызначаюцца найбольшай канцэнтрацыяй агульных асаблівасцей гэтага дыялекту і іх выразнасцю. Ім уласціва паслядоўнае дысімілятыўнае аканне *(въдá, тръвá* або нават *выдá, трывá,* але *вадóй, травóй, у вадз'é, у трав'é, вады́, травы́, вадý, травý)*, паслядоўнае дысімілятыўнае яканне, цвёрды і мяккі гукі [р] і [р'], падоўжаныя зычныя гукі [с'с'], [з'з'], [ц'ц'], [дз'дз'], [н'н'], [л'л'], [шш], [жж], [чч] і інш. Віцебска-магілёўскія гаворкі адрозніваюцца і спецыфічнымі асаблівасцямі. Гэта формы назоўнікаў жаночага роду з асновай на [г], [х], [к] у давальным і месным склонах адзіночнага ліку з мяккімі канцавымі зычнымі [к'], [х'], [г'] у аснове *(к стр'ах'é, к старýх'і, к наг'é, к дарóг'і, к рук'é, к бáбк'і, ны стр'ах'é, пъ старýх'і, ны наг'é, пъ дарóг'і, ны рук'é, пъ бáбк'і)*; асабовыя формы дзеясловаў з асновай на [г], [к], з мяккімі зычнымі [г'], [к'] *(п'акý, стр'іго́, п'ак'éш, стр'іг'éш, п'ак'éц', стр'іг'éц', п'ак'óм, стр'іг'óм, п'ік'іц'ó, стр'іг'іц'ó, п'акуц', стр'ігуц')*; утварэнне назваў малых у жывёл і птушак пры дапамозе суфікса *-онак (ц'ал'óнък, кац'óнък, кыц'анóк,* або *кыц'ан'óнък, ц'іпл'óнък, дз'іц'óнък)*; канчатак *-і* ў займенніка *увесь* у назоўным склоне множнага ліку *(ус'í л'ýдз'і, ус'í дн'і)*; канчатак *-ей* пад націскам у прыметніках і займенніках з цвёрдай асновай у родным і творным склонах адзіночнага ліку жаночага роду *(мъладéй, сух'éй, тей, так'éй, з мъладéй, зы сух'éй, за тей, зы так'éй)*; канчатак *-ейа* пад націскам у прыметніках і займенніках у назоўным склоне множнага ліку *(мыладéйа л'ýдз'і, сух'éйа дрóвы, тéйа дн'і, так'éйа дарóг'і)*; неазначальная форма з канцавым зычным гукам [ц'], [ч], [ш] дзеясловаў з асновай на зычны *(йес'ц', л'ез'ц', клас'ц', с'еч, л'ежч, стр'íжч, стр'íч, стр'íш, л'ежч, л'еч, л'еш)*.

У віцебска-магілёўскай групе паводле некаторых асаблівасцей адрозніваецца паўночная частка гаворак, або інакш віцебская падгрупа. Ёсць нават падстава гаворкі паўночнай і паўднёвай частак гэтай групы разглядаць як асобныя групы ў складзе паўночна-ўсходняга дыялекту — віцебскую і ўсходнемагілёўскую. Гаворкі гэтых груп адрозніваюцца некаторымі асаблівасцямі ненаціскнога вакалізму. Для гаворак усходнемагілёўскай групы характэрна дысімілятыўнае яканне так званай жыздранскай разнавіднасці *(з'імл'á, с'ідз'áц',* але *з'амл'é, с'адз'éу* і г. д.). Гаворкі віцебскай групы характарызуюцца дысімілятыўным яканнем так званай суражскай разнавіднасці *(з'імл'á, с'ідз'áц', з'імл'é, с'ідз'éц',* але *з'амл'óй, с'адз'óм, з'амл'ý, с'аджý, з'амл'í, с'адз'íц')*. Усходнемагілёўскія гаворкі адрозніваюцца вымаўленнем звонкіх зычных у канцы слова і перад глухімі зычнымі ў сярэдзіне слова *(ду[б], са[д], но[ж], ло[ж]ка, ка[з]ка)*, у віцебскіх гаворках у такім становішчы чуюцца глухія зычныя гукі *(ду[п], са[т], но[ш], ло[ш]ка, ка[с]ка)*.

Абедзве ўсходнія групы гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту маюць працяг за межамі рэспублікі (на перыферыі асноўнага масіву гаворак беларускай дыялектнай мовы, гл. **Асноўны масіў беларускіх гаворак**). Віцебская група гаворак утварае генетычнае адзінства з гаворкамі заходняй часткі Смаленшчыны. Гэта адзінства родных па паходжанні гаворак можна назваць смаленска-віцебскай групай паўночна-ўсходняга беларускага дыялекту. Усходнемагілёўская група складае адно цэлае з гаворкамі заходняй Браншчыны. Гэта адпаведна магілёўска-бранская, або северска-беларуская, група паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак.

Маюць таксама працяг за межамі Беларусі паўночная і заходняя групы

гаворак. Гаворкі заходняй групы паўночна-ўсходняга дыялекту адыгралі вядучую ролю ў станаўленні асновы сучаснай беларускай літаратурнай мовы на першапачатковым этапе яе гістарычнага фарміравання. На асаблівасці гаворак паўночна-ўсходняга дыялекту абапіраліся ў сваёй літаратурнай творчасці Ф. Багушэвіч, А. Гурыновіч, А. Ельскі, Я. Купала, Ядвігін Ш., З. Бядуля і інш.

Паўночна-ўсходні дыялект з'яўляецца спадкаемцам старажытнага ўсходнеславянскага племяннога дыялекту смаленска-полацкіх крывічоў і вынікам яго структурнага развіцця і змянення. Пры гэтым адбылася яго пэўная адаптацыя да мясцовых балцкіх дыялектных папярэднікаў пры іх асіміляцыі, а таксама і ўзаемадзеянне з гаворкамі паўднёва-заходняга беларускага дыялекту, якія фарміраваліся на аснове племяннога дыялекту старажытных дрыгавічоў і пашыраліся на поўнач. Племянному дыялекту смаленска-полацкіх крывічоў належыць значная роля ў фарміраванні асаблівасцей сучасных дыялектаў рускай нацыянальнай мовы, асабліва паўднёварускага (гл. карту да артыкула **Дыялектная мова** на ст. 58)

*Літ.:* Добровольский В. Н. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914; Каспяровіч М. І. Віцебскі краёвы слоўнік: Матэрыялы. Віцебск, 1927; Расторгуев П. А. Северско-белорусский говор: Исследование в области диалектологии и истории бел. говоров. Л., 1927; Яго ж. Говоры на территории Смоленщины. М., 1960; Яго ж. Словарь народных говоров западной Брянщины. Мн., 1973; Юргелевич П. Я. Особенности говоров Могилёвской области // Уч. зап. Могилёвского гос. пед. ин-та. 1955. Вып. 1; Мацкевіч Ю. Ф. Некаторыя дыялектныя асаблівасці паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 3; Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1968—69; Юрчанка Г. Ф. Дыялектны слоўнік: (З гаворак Мсціслаўшчыны). Мн., 1976; Яго ж. Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. Ч. 1—3. Мн., 1981—85; Яшкін І. Я. Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм: Фанетыка. Мн., 1976; Яго ж. Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм: Марфалогія. Сінтаксіс. Мн., 1980; Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Т. 1—5. Мн., 1979—86; Бяльковіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970; Матэрыял да абласнога слоўніка Магілёўшчыны. Мн., 1981.

*А. А. Крывіцкі.*

## ПАХОДЖАННЕ МОВЫ

Членападзельная мова, бадай, найбольш істотная і яскравая прыкмета чалавека, якая вылучае яго з усяго астатняга біялагічнага свету. Гэты важны здабытак людзей дае падставу меркаваць, што само паходжанне і станаўленне чалавека адбылося дзякуючы мове, таму і праблема ўзнікнення мовы непасрэдна звязана з фарміраваннем чалавека. На жаль,пісьменства, якое непасрэдна матэрыяльна фіксуе і захоўвае вынікі моўнай дзейнасці, існуе адносна нядоўгі час, усяго каля 5000 гадоў. А дзесяткі тысяч гадоў, пераважную большасць часу існавання чалавека гаворачага, мова ўжывалася толькі ў вуснай форме, таму дакладных, строга аргументаваных звестак пра тое, як узнікла мова і якія этапы свайго развіцця яна прайшла, у навуцы няма. Вырашэнне праблемы паходжання мовы цалкам з'яўляецца гіпатэтычным: яе можна разглядаць толькі шляхам пабудовы праўдападобных гіпотэз, на аснове розных ускосных доказаў, тэарэтычных разважанняў, прыцягнення дадзеных з іншых навук, напрыклад антрапалогіі, археалогіі, этнаграфіі, гісторыі і інш. Тэорыя Ч. Дарвіна пра паходжанне чалавека з жывёльнага свету, створаная ў 19 ст., дала падставу некаторым вучоным меркаваць пра тое, што і мова ўзнікла натуральным шляхам дзякуючы цэлай сукупнасці матэрыяльных умоў, пры якіх жыў наш далёкі продак. Але яшчэ задоўга да гэтага ў нетрах старажытнагрэчаскай філасофіі зарадзіліся гіпотэзы аб паходжанні мовы. Так, згодна з гукапераймальнай гіпотэзай паходжання мовы, апошняя ўзнікла праз перайманне, ці імітацыю гукаў навакольнага свету чалавекам, яго органамі, якія з цягам часу ўдасканальваліся і сталі здольнымі выконваць дадатковую да біялагічных функцый — функцыю маўлення. Праз перайманне шматлікіх і разнастайных гукаў навакольнага свету (спеў птушак, шум ветру, гул грому, журчанне вады, шапаценне лісця і г. д.) чалавек навучыўся, як сцвярджаюць прадстаўнікі гэтай гіпотэзы, гаварыць.

Другая старажытная гіпотэза грэчаскіх мудрацоў звязвае паходжанне мовы з тымі натуральнымі гукамі, якімі насычана біялагічнае жыццё самога чалавека (сапенне, кашаль, крыкі, хрып, гукі, выкліканыя пачуццём болю, радасці, абурэння і г. д.). Ад іх і бярэ пачатак, як лічылі некаторыя старажытнагрэчаскія вучоныя, членападзельная мова. Гэта гіпотэза называецца выклічнікавай. Ужо ў 19 стагоддзі французскі даследчык Л. Нуарэ выказаў гіпотэзу пра тое, што мова ўзнікла ў час калектыўнай працы людзей, якія дапамагалі сабе выкрыкамі пры яе выкананні. Гэтыя працоўныя выкрыкі і ляглі ў аснову стварэння мовы людзей. Вядомым французскім філосафам Ж. Ж. Русо была распрацавана гіпотэза сацыяльнага паходжання маўлення, згодна з якой старажытныя людзі дамовіліся паміж сабой называць прадметы і з'явы акаляючага свету пэўнымі моўнымі адзінкамі. Меркаванні вучоных-матэрыялістаў пра ўзнікненне мовы грунтуюцца на шэрагу фактаў і акалічнасцей жыцця нашага далёкага продка. Асноўным фактарам, дзякуючы якому адбылося фарміраванне чалавека сучаснага выгляду і станаўленне яго членападзельнай мовы як сродку зносін і мыслення, лічыцца сумесная праца людзей. Але гэтаму фактару спадарожнічалі і іншыя акалічнасці і змены ва ўмовах жыцця чалавека. Да іх належыць на першым этапе ператварэння малпы ў чалавека тое, што нашы продкі паступова ў пошуках ежы з дрэў зышлі на зямлю, вялі калектыўнае жыццё, мелі органы, з дапамогай якіх вымаўлялі гукі. Станаўленню чалавека спрыялі яго прамахаджэнне, ужыванне мясной ежы, вынаходства агню, а галоўнае — калектыўная праца па здабыванні ежы і паступовае выкарыстанне спачатку выпадковых прылад (сукоў дрэў, камянёў, палак, касцей і інш.), а потым і спецыяльна апрацаваных інструментаў (завостраных палак, абабітых камянёў, касцей і інш.).

Прамахаджэнне садзейнічала таму, што наш продак стаў атрымліваць значна больш уражанняў ад акаляючага свету, бо стоячы на чацвярэньках многа не ўбачыш. А чым больш звестак атрымлівае істота, тым больш падставы для развіцця яе мозга. Выкарыстанне агню і мясной ежы прыводзіла да таго, што органы, якія прызначаны прыродай для перапрацоўкі ежы (зубы, язык, вусны), сталі мець больш свабоднага часу (чалавек хутчэй і на больш доўгі перыяд насычаецца мясной ежай) і ўжо патэнцыяльна маглі выкарыстоўвацца для дадатковай нагрузкі сацыяльнага характару, напрыклад вымаўляць гукі. У час сумеснай працы пастаянна ўзнікалі сітуацыі, якія патрабавалі гукавых сігналаў, рукі былі заняты працай, таму немагчыма было зносіцца шляхам жэстаў. Спачатку яны былі прымітыўныя, нечленападзельныя, а з ускладненнем працы, выкарыстаннем больш удасканаленых прылад з'явілася патрэба і ў больш складаных сігналах. Гэта паступова прывяло да перабудовы органаў маўлення і да іх здольнасці ствараць членападзельныя гукі, што адлюстроўвала ўзнікненне ў свядомасці чалавека больш глыбокіх думак і рабіла магчымым іх выражэнне праз адпаведныя ім формы мовы. Працэс станаўлення чалавека ў час працы праходзіў вельмі доўга (дзесяткі, а магчыма, і сотні тысяч гадоў), а развіццё яго мыслення і затым свядомасці было непасрэдна звязана з узнікненнем і ўскладненнем членападзельнай мовы.

Узаемасувязь мовы, мыслення і свядомасці чалавека больш відавочна прасочваецца на стадыях развіцця пісьма, якое спачатку было піктаграфічным (у выглядзе малюнкаў) і адлюстроўвала наглядное мысленне

чалавека, бо гэта пісьмо было цалкам зрокава матываваным і нерасчлянёным. Наступным этапам развіцця пісьма было вынаходства іерагліфічнага спосабу фіксавання маўлення, які больш адэкватна прадстаўляў ужо больш складаныя і адцягненыя думкі чалавека праз адпаведныя знакі-іерогліфы і вызначаны парадак іх размяшчэння ў тэксце. Далейшым самым удасканаленым спосабам пісьмовага выражэння думак стала літарнае пісьмо, якое адлюстроўвала этап станаўлення абстрактнага мыслення чалавека. Шляхам выкарыстання невялікай колькасці нематываваных літар-знакаў стала магчымым выражаць пісьмова думкі любой складанасці.

Пры разглядзе праблемы паходжання мовы выкарыстоўваюцца таксама дадзеныя пра развіццё дзіцячага маўлення, усе этапы станаўлення якога, па меркаванні некаторых даследчыкаў, адлюстроўваюць істотныя рысы паходжання мовы чалавека ў цэлым. Пэўную ролю пры зносінах людзей выконваюць жэсты, пантамімы, што, магчыма, спрыяла або нават папярэднічала развіццю вуснага маўлення. Даследчыкі ўлічваюць таксама значэнне для выжывання чалавека ўсялякай інфармацыі ўвогуле, сярод якой самай эфектыўнай аказалася моўная, паводзіны і зносіны ў вышэйшых істот (малп, свойскай жывёлы, дэльфінаў і інш.). Што датычыць паходжання канкрэтных моў, у тым ліку і беларускай, то практычна для кожнай мовы, якая мае пісьмовую форму, напісаны навуковыя працы пра іх утварэнне і развіццё. Напрыклад, беларуская мова, а таксама руская і ўкраінская, узніклі з адной крыніцы — старажытнарускай мовы, і іх найбольш характэрныя рысы скláліся ўжо на пачатку XV стагоддзя (гл. **Гісторыя беларускай літаратурнай мовы**).

*Літ.:* Гвоздев А. Н. Вопросы изучения детской речи. М., 1961; Донских О. А. К истокам языка. Новосибирск, 1988; Леонтьев А. А. Возникновение и первоначальное развитие языка. М., 1963; Протасеня П. Ф. Происхождение сознания и его особенности. М., 1959; Сидоров М. Как человек стал мыслить. М., 1965; Спиркин А. Г. Происхождение языка и его роль в формировании мышления // Мышление и язык. М., 1957; Фишель В. Думают ли животные? М., 1973; Фолсом Ф. Книга о языке: Пер. с англ. М., 1974; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984; Якушин Б. В. Гипотезы о происхождении языка. М., 1984.

*Б. А. Плотнікаў.*

## ПАШКЕВІЧ ВАЛЯНЦІНА МІКАЛАЕЎНА

Беларускі педагог і лексікограф В. М. Пашкевіч нарадзілася 5 лютага 1916 г. ў г. Казельск Калужскай вобласці. У 1919 г. з бацькамі вярнулася на радзіму ў Пружаны. Тут скончыла польскую пачатковую школу і гімназію. У 1935 г. паступіла ў Віленскі універсітэт на класічную філалогію (лацінская і грэчаская мова і літаратура, культура Рыма і Грэцыі). Пасля выбуху вайны ў 1939 г. вярнулася ў Пружаны, дзе працавала настаўніцай беларускай мовы ў школе-дзесяцігодцы. У 1942 г. вывезена на работы ў Нямеччыну. З 1946 г. ў белускім лагеры для перамешчаных асоб у Ватэнштэце каля Браўншвейга, дзе выкладала фізіку ў беларускай гімназіі. З 1949 г. жыве ў Канадзе. У Таронта 15 гадоў вяла беларускую суботнюю школу для дзяцей пры парафіі св. Ефрасінні Полацкай.

В. М. Пашкевіч склала «Першую чытанку пасля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў» (Клііўленд, 1968). Яна аўтар падручніка «Беларуская мова» (т. 1—2. Таронта, 1974—78) — адзінага сістэматычнага і найбольш поўнага курса беларускай мовы для навучальных мэт за межамі Беларусі. Падручнік абапіраецца на правапіс Б. Тарашкевіча з пазнейшымі ўдакладненнямі, прынятымі на эміграцыі пад уплывам Я. Станкевіча і А. Адамовіча. У дадатку да падручніка змешчаны беларуска-англійскі і англа-беларускі слоўнікі (кожны да 9000 лексічных адзінак). Падрыхтавала вялікі (каля 50 000 слоў) «Ангельска-беларускі слоўнік», выхад якога запланаваны на 1994 г. Апублікавала артыкул «Навучаньне беларускае мовы ў англамоўным асяроддзі» (Запісы БІНІМ. Нью-Йорк, 1983. № 17).

*С. А. Шупа.*

## ПЕРЫФРАЗА

Перыфраза, перыфраз (грэч. periphrasis апісальны выраз, алегорыя) — сэнсава непадзельны выраз, які апісальна абазначае прадмет або дзеянне, паказваючы адначасова яго адметнасць. Структурна перыфразы супадаюць са словазлучэннямі (*астаткі шведскае вайны* — курганы, *бачыць вачыма памяці* — успамінаць, *жывы чалавечы струмень* — натоўп, *зямля Заслонава, Купалы* — Беларусь) або сказамі (*Усюды мае сябры, камбайнер і сталь хто варыць...* — П. Броўка).

Як вобразны сінонім слова перыфраза і называе пэўную з'яву, і характарызуе яе (*крылатая мудрасць народа* — фальклор, *земляное калецтва* — яма, варонка ад выбуху бомбы або снарада, *браня зімы* — лёд, *наш, беларускі гімн чыстаму каханню* — народная песня «Зорка Венера» на словы М. Багдановіча).

Перыфраза — найчасцей вынік індывідуальна-мастацкага бачання свету. Яна з'яўляецца сродкам вобразнасці і моўнай выразнасці мастацкага твора. У вершы «Мы ў свой горад прыйшлі» М. Танку не спатрэбілася падрабязна апісваць спалены, разбураны вайною Мінск, якім ён быў у 1944 г. Усё паказала перыфраза *каменная дамавіна.* Людзі, якія ўвайшлі ў горад пасля яго вызвалення, якія шмат бачылі на сваім цяжкім шляху да перамогі, былі ўражаны цішынёй руін і папялішчаў, перад імі не былы горад, а каменная дамавіна. Перыфразы тым і каштоўныя, што прымушаюць нас нешта ўяўляць, дадумваць, як бы падключаюць да творчага працэсу афармлення думкі. Амаль у кожнай перыфразе ёсць невялічкая загадка. Раскрыць яе дапамагае семантычная арганізацыя перыфразы і кантэкст.

Перыфразы ўзнікаюць і тады, калі трэба назваць прадмет, з'яву, а слова ці зусім невядома, ці забылася ў гэты момант. У рамане І. Мележа «Подых навальніцы» куранёўцы, складаючы планы на будучае, карысталіся перыфразай *заглядкі наперад: Такія заглядкі наперад у другіх, найбольш — гарадскіх людзей называліся марамі. У Куранях слова такога не ведалі: няпростае, нібы панскае было яно, стагоддзямі было яно ні на што ў куранёўскіх хатах, як думка пра белую булку таму, у каго няма чэрствай, чорнай скарынкі.* Я. Брыль занатаваў у «Жмені сонечных промняў» падслуханыя ў старой вясковай жанчыны словы пра дзённікі: *Ці ў вас прадаюцца тыя цятрадкі, дзе ставяць двойкі?* Такія перыфразы ўзнікаюць асабліва тады, калі гавораць пра малавядомае, пра новыя рэчы і з'явы жыцця.

Карыстаюцца перыфразамі і тады, калі хочуць пазбегнуць слоў, якія маглі б абразіць эстэтычны густ слухача або чытача. У такіх выпадках захаваць моўны этыкет дапамагаюць эўфемістычныя перыфразы (гл. **Эўфемізмы**).

Бываюць і вобразныя перыфразы: метафарычныя (*раніца жыцця* — маладосць, *залатыя дратаванкі* — маланкі, *схапіць вачамі* — убачыць, *лясная вяшчуння* — зязюля) і метанімічныя (*край Купалы* — Беларусь, *радзіма двух Міцкевічаў* — Прынямонне, *горад над Нёманам* — Гродна). Вылучаюць яшчэ перыфразы, заснаваныя на звычайным лагічным апісанні: *прадзедаў зямля* — радзіма, *сынаў сын* — унук, *стваральнік усіх багаццяў на зямлі* — чалавек.

Індывідуальнасць асацыяцый часам замацоўваецца моўнай традыцыяй, і перыфраза становіцца зразумелая без кантэксту, ператвараецца ў традыцыйную. *Другім хлебам* называюць беларусы бульбу, *царом пушчы* — зубра, *паўночным шоўкам* — лён, *беларускім морам* — возера Нарач. З антычных часоў Палессе называюць *морам Герадота.* З падзеямі паўстання 1863 г. звязана ўзнікненне перыфраз *чырвоны дыктатар, «кароль Літвы»* — Кастусь Каліноўскі, якога В. Таўлай ахарактарызаваў як *атамана*

*мужыцкай праўды. Мужыцкім адвакатам* назваў паэт Ф. Багушэвіча. А. Р. Чарвякова называлі ў публіцыстычных артыкулах *усебеларускім старастам*, М. Чарота — *песняром прадвесня.* Некаторыя перыфразы — патэнцыяльныя фразеалагізмы. Багаты сэнсавы і эмацыянальны змест перыфразы робіць яе выразным стылістычным сродкам мовы фальклору, мастацкай літаратуры і публіцыстыкі.

*Літ.:* Малажай Г. М. Беларуская перыфраза: Кароткі слоўнік. Мн., 1974; Я е ж. Сучасная беларуская мова: Перыфраза. Мн., 1980; Я е ж. Сучасная беларуская мова: Слова. Перыфраза. Фразеалагізм. Мн., 1992. *Г. М. Малажай.*

## ПЕСНЯ

Песні розных жанраў адыгралі вялікую ролю ў фарміраванні агульнанацыянальнай літаратурнай мовы. Песня яднала насельніцтва аддаленых рэгіёнаў, гараджан і сялян, розныя сацыяльныя слаі і пакаленні. На працягу стагоддзяў яна адлюстроўвала амаль усе праявы народнага жыцця і светапогляду, адценні чалавечых пачуццяў, адсюль своеасаблівасць і багацце яе мовы. Вершаваная песенная форма садзейнічала захаванасці твораў, іх устойлівасці супраць індывідуальных інтэрпрэтацый сюжэта («з песні слова не выкінеш»). Такім чынам, песня найбольш спрыяла захаванню агульнапрызнаных законаў маўлення і паэтыкі. У мове песні звычайна няма лішняга, празмернага, неабавязковага. Празрыстасць, гранічная чысціня і лаканізм, свежасць і шчырасць — характэрныя рысы мовы беларускіх песень.

Для беларускага песеннага, асабліва абрадавага фальклору характэрна захаванасць архаічных пластоў лексікі. Як сведчанне пэўных міфалагічных уяўленняў народа ў песнях да нас дайшлі найменні міфалагічных персанажаў тыпу *Цмок, Яшчар, Купалка, Цярэшка* і інш. Хрысціянства, дастасаваўшы свой каляндар да народнага, паспрыяла замацаванню ў песнях народных варыянтаў імён святых Юр'я, Міколы, Пятра, Іллі, Барыса і інш., дзе яны часам трацяць прыкметы імён, а набываюць прыкметы назваў дзён, свят: *Святое **Юр'е** на кані едзець; Свята **Мікола,** нет яго дома; А свято **Пятро** — поўнае ядро, // Святая **Ілля** — крутая жняя.* У многіх песнях, асабліва такіх, як паставыя, псалмы, песні жабракоў на апакрыфічныя тэмы, адлюстравалася лексіка, запазычаная з рэлігійнай літаратуры і па-свойму адаптаваная. Напрыклад, некаторыя паставыя і велікодныя песні выконвалі з прыпевам «Алялюя!».

Надзвычай багаты пласт песеннай лексікі звязаны з росквітам беларускага нацыянальнага жыцця ў 14—16 ст., калі наша мова мела статус дзяржаўнай і аўтарытэт усяго беларускага ішоў поруч з развіццём разнабаковых палітычных, эканамічных і культурных сувязей са славянскімі і неславянскімі краінамі Захаду і Усходу. Так, у песнях гэтага перыяду шырока прадстаўлены тапанімічныя назвы: *Полацк, Слуцк, Тураў, Вільня, Кіеў, Чарнігаў, Ноўгарадок, Альбоў (Львоў), Варшава, Крулявец, Дунай, Белая Русь, Турэцкая, Валошская, Шведская землі* і інш. *Што ў **Полацку** дзеіцца // Дзевяць мальцоў жэніцца; Прыйшлі ж яны к сіню мору, // К сіню мору, к ціхаму **Дунаю**; Ляцелі гусі з Белай Русі // Яны, лятучы, усё й гаварылі: // — Дзе мы ляталі, дзе мы бывалі, // Нідзе ня лепей, як у **Крывічах**.* У песнях шырока адбілася і наменклатура грашовых адзінак, што мелі пашырэнне на Беларусі: *талер (таляр), грош, шэлег, дукат («чырвоны злоты», «залаты»), шастак, асьмак, рубель, капейка, залатоўка* і інш. *Дам бабульцы **дуката,** // Каб наняла адвоката; А на печы, на лучыне // Дзеўкі грошы палічылі, // Налічылі два **талеры** // І купілі кавалера; Ад таго-сяго па сто **рублёў,** // Ад сужанькі — ні **шэляжні;** Чырвон **злоты** нам на боты, // **Залатоўкі** на падкоўкі.*

У песнях добра захавалася лексіка, што адлюстроўвае наменклатуру сямейных, сваяцкіх, а таксама сістэму грамадскіх адносін. Перавага аддавалася канкрэтным (а не апісальным) назвам ступеняў роднасці (*свякроўка, свёкарка, дзевер, залоўка, ятроўка, дзядзіна, цесць, швагер, швагерка* і інш.). У песнях зберагліся старадаўнія назвы грамадскіх назваў станаў, пасад, чыноў, званняў, прафесій, такіх, як *князь, кароль, цар, ваявода, маршалак, пан, войт, баярын, служка, соцкі, чалядзін, вайтоўка, ключніца, шынкарка, рыбалоў, зямец, пашнік,* і іншых. ***Шавец** шылам уколе, // Дратвінаю звяжа, // Слухай ты, дзяўчына, // Што ён табе скажа; А ў нашага **караля** // Явілася навіна. // Явілася навіна: // Клічуць **соцкі** з **войтам** са двара; Едзе **паніч** маладзенькі, // Пад ім конік варaненькі; Ой вы, **рыбалоўцы**, слаўныя малойцы, // Закідайце сеці на быстрыя рэчкі.*

У песнях адлюстраваны і багаты матэрыяльны свет нашых продкаў: даўнія назвы прадметаў, матэрыялаў, мясцовых і прывазных прадуктаў: *Надзяець **сподні саятовыя,** // Надзяець **панчошкі** ды **бялёвыя,** // Надзей **боцікі казловыя,** // Надзей **шубаньку енатовую;** // Надзей **шапачку** ды **пуховую,** // Завязаў **хусту** ды **шаўковую.*** Прадметы матэрыяльнага побыту асабліва поўна адлюстраваны ў валачобных, калядных і іншых абрадавых песнях: *Вакола зґароду ўсё жалезны тын, // А шулачкі мураваныя, // Вярэюшкі ўсё тачоныя, // Вароцікі пазлачоныя, // Падваротніца — бела рыббя косць.*

Песні данеслі да нас словы, што азначалі даўнія пабудовы: *тын, частакол, клець (клетка), камора, пўніца, святліца, цямніца, сціжарня, вазоўня, грыдня, рум* і інш. Некаторыя з іх ужо нават незразумелыя сучаснаму чытачу. У некаторых песнях захаваліся не толькі назвы рэчаў, але і тэхналогія іх вытворчасці. Так, у адной з купальскіх песень адлюстраваны ўсе этапы вырабу палатна: *Малада Купалінка стужылася, // Што яе дары не прадзены, // Хоць прадзены, дык ня вітыя, // Хоць вітыя, дык ня снованы, // Хоць снованы, дык ня тканыя, // Хоць тканыя, дык ня белены, // Хоць белены, дык ня качаны, // Хоць качаны, дык ня дзелены.*

Не магла не ўплываць на духоўны свет нашых продкаў багатая і вечна загадкавая прырода. З язычніцкіх часоў яны шырока выкарыстоўвалі прыродныя вобразы для адлюстравання сваіх настрояў, душэўных зрухаў, станаў, захоўваючы разуменне універсальнай еднасці ўсяго існага на зямлі. Гэта абумовіла выпрацоўку прыёму псіхалагічнага паралелізму ў песеннай паэзіі. Мастацкая сімволіка ў ёй вызначаецца канкрэтнасцю вобразаў. Так, сімвалам дзяўчыны ў песнях служыць *ліпа, бярозка, рабіна, каліна,* сімвалам хлопца — *явар, дуб, клён. Галубка і сокал* — гэта дзяўчына і хлопец. *Гусі, галубы, сокалы* часта сімвалізуюць вестуноў. *Арлы і вораны* звязваюцца з эпічнымі падзеямі, бітвамі. *Ластаўкі, зязюлькі, перапёлкі* — жаночыя сімвалы, у якіх ператвараецца жанчына па волі лёсу ці па ўласным жаданні. Пэўную міфалагічную нагрузку маюць і іншыя птушкі: *салавей* — родны брат, *зязюлька* — сястрыца, *бусел* — скінуты з неба анёл і інш. Не выпадковы падбор у песнях і кветак. Так, у вясельных і лірычных песнях, дзе закранаецца шлюбная тэматыка найчасцей сустракаюцца *рута, мята* і *лілея* — расліны сімвалічныя і лекавыя.

Адбор лексічных сродкаў для пэўнага наймення часта абумоўлены зместам і характарам песні ці асаблівасцямі сюжэта. Так, у віншавальна-велічальных песнях да адрасата звяртаюцца «пане-гаспадару», «слічны паніч», «слічна паненка», а ў лірычных герой найчасцей безыменны: *бел малойчык, маладая дзевачка.* Як і ў жыцці лічылася натуральным звяртацца да бацькоў «татулька», «татачка», «матулька», «мамачка», так яно захавалася і ў песнях: *А ў полі рэчачка разліваецца, // Дачушка з татачкам разлучаецца. // — Татулька родненькі, не забудзь мяне, Як прыйдзе суботка — прыедзь па мяне. // Я ж цябе, татулька, дажыдаць буду, // У шырокай вулачцы перхаймаць буду, // Новыя варотцы адчыняць буду, // Старыя ручачкі цалаваць буду.*

Розныя песенныя жанры маюць пэўныя моўныя асаблівасці і ў залежнасці ад функцыянальнага прызначэння кожнай песеннай групы. Так, калыханкі, забаўлянкі, лічылкі адбіраюць кола вобразаў і ўяўленняў,

блізкіх і зразумелых дзіцяці, адсюль і памяншальна-ласкальныя формы слоў, што звязана з неабходнасцю выявіць найшчырэйшыя пачуцці, выказаць узрушанасць, шчымлівую пяшчоту, бязмежную любасць, шкадаванне. *Пайшоў каток на таржок // Купіў каток піражок. // А котачка адняла // І Пятруську аддала.* У творах для дзяцей вобразы жывёл і птушак выкарыстоўваюцца для надання ім большай маляўнічасці, выконваюць пазнавальныя функцыі. Тут найперш *верабей, сарока-белабока, вароны, куры* — усё, што кідаецца ў вочы дзіцяці, што блізка, што часта сустракаецца.

Спектр аднакарэнных словаформ у песнях часта бывае значна багацейшы, чым у літаратурнай мове. Вось, напрыклад, колькі слоў, утвораных ад кораня *брат*, захавалася ў песенным фальклоры: *браток, братка, брацятка, брахнінька, братулька, браточак; братавая, братоўка (братайка), брацiхна, брацiха* і інш.

Характэрнай рысай мовы песень з'яўляецца ўжыванне кароткіх прыметнікаў: *бел малойчык, чырвон злоты, зелен явар, сінь жупан, кован пояс, золат персцень, пярлоў вянок.*

Натуральным для песеннай мовы з'яўляецца захаванасць у дзеясловах канчаткаў *-ці — хадзіці, глядзеці, збіраці, гаварыці, насіці: Сталі дзеці служыці, // Сталі суквi насiцi.*

Фальклор не столькі вынаходзіў для сябе, колькі захаваў тое, што было створана ў жыцці на працягу доўгага часу. Вельмі архаічнымі з'яўляюцца таўталагічныя паўторы тыпу *вайну ваяваць, думу думаці, дым дыміць, звон званіць, ішлі-пайшлі, мостам мошчан, дылем дылявацъ, тынам тынавацъ* і інш. Сінтаксічныя канструкцыі, у якіх непасрэдна звязваюцца словы аднаго кораня ці словы-сінонімы, блізкія па семантыцы, надзвычай узбагачаюць мову народнай песні, яе мастацкую выразнасць. Тут праяўляецца здзіўляючая вынаходлівасць творцаў песень, іх чуласць да слова, да магчымасцей мовы, вялікай свабоды аперыравання словам у межах законаў мовы. Назіраецца злучэнне аднакарэнных слоў розных часцін мовы — назоўніка, дзеяслова, прыслоўя, прыметніка, дзеепрыслоўя. Паўтор ва ўсіх праявах робіць адметным, характэрным сінтаксіс народнай песні, на ім грунтуюцца іншыя, самастойныя мастацкія прыёмы: *Мая дарожка дзярном зарасла, // Ой, дзярном, дзярном ды дзярнінаю; // Хадзіў-пахадзіў Ясь па полі, // Сеяў-рассяваў васілёчкі; А на той гары ды на залатой // Тыны-прытыны папрытынены, // Сады-прысады панасаджаны, // Райскія пташкі папрынаджаны.*

*Літ.:* Коўтун В. Святло народнага слова: Паэтычны лад бел. нар. песні. Мн., 1984; Гілевіч Н. Паэтыка беларускай народнай лірыкі. Мн., 1975.

*Л. М. Салавей.*

## ПЛАН ЗМЕСТУ І ПЛАН ВЫРАЖЭННЯ

Зыходнымі і галоўнымі часткамі мовы з'яўляюцца, з аднаго боку, яе матэрыяльная знешняя форма, якая выступае ў выглядзе гукаў і пісьмовых знакаў, з другога — семантыка, інакш значэнні, якія перадаюцца гэтай формай. Першая, матэрыяльная частка мовы называецца ў сучасным мовазнаўстве планам выражэння, другая, нематэрыяльная, ідэальная частка — планам зместу. У сваю чаргу план выражэння падзяляецца на больш дробныя часткі, якія, калі ісці ад галоўнай камунікатыўнай адзінкі мовы — сказа, традыцыйна падзяляюцца на сказы, словазлучэнні, словы, марфемы, склады, гукі. У кожным з раздзелаў мовазнаўства (параўнайце: сінтаксіс, лексікалогія, марфалогія, фанетыка), якія вывучаюць гэтыя часткі, яны расчляняюцца на больш дробныя кампаненты. Так, марфемы падзяляюцца на каранёвыя і некаранёвыя, сярод некаранёвых вылучаюць прэфіксы, суфіксы, інфіксы, канчаткі. Сказы, словазлучэнні, словы, склады і гукі таксама падзяляюцца на больш дробныя часткі і разнавіднасці. Адпаведна кожнаму кампаненту мовы, які вылучаецца, дыферэнцыруецца і змест. Але калі ў такіх частках плана выражэння, як сказы, словазлучэнні, словы, марфемы, вылучэнне плана зместу не выклікае пярэчанняў, то для складоў і гукаў, якія традыцыйна разглядаюцца як нязначымыя кампаненты, вылучэнне плана зместу з'яўляецца дыскусійным пытаннем. Аднак пункт погляду, паводле якога і ў гэтых драбнейшых кампанентаў мовы ёсць свой змест, прадстаўляецца больш слушным.

Пры іншым падыходзе да плана зместу (не з боку разгледжаных матэрыяльных кампанентаў мовы) у ім вылучаюцца свае семантычныя з'явы і кампаненты: сінанімія, антанімія, полісемія, семантычныя множнікі і інш. Аднак падобныя з'явы і кампаненты пэўным чынам звязаны з адпаведнымі матэрыяльнымі кампанентамі, бо першыя вылучаюцца сярод другіх і аб'ядноўваюць іх у сукупнасці, рады, пары, групы і да т. п. Галоўнай праблемай не толькі пры разглядзе лінгвістычнай тэмы плана зместу і плана выражэння, але і ўсяго ўнутранага мовазнаўства з'яўляецца вырашэнне таго, якія адносіны існуюць паміж гэтымі галоўнымі часткамі мовы. Мова служыць для перадачы зместу, і гэты змест мы разумеем не інакш, як праз розныя формы яго выражэння. Паміж планам зместу і планам выражэння тэарэтычна магчымы толькі тры наступныя віды адносін, якія выяўлены яшчэ старажытнагрэчаскімі філосафамі і застаюцца дыскусійнымі і ў наш час: план зместу і план выражэння звязаны паміж сабой адвольнымі, нематываванымі адносінамі, паміж гэтымі планамі існуе прыродная, матываваная сувязь; паміж планам зместу і планам выражэння мовы адзначаюцца як адвольныя, так і матываваныя сувязі. Сапраўды, у любой натуральнай мове ёсць кампаненты матываваныя і нематываваныя, і, здаецца, апошні пункт погляду мае рацыю, але пры параўнанні розных моў і гэты аргумент страчвае пад сабой аснову. Так, напрыклад, для носьбітаў беларускай мовы назва зімовага месяца *студзеня* з'яўляецца матываванай, для носьбітаў рускай мовы адпаведная назва зімовага месяца *январь* не мае матываваных сувязей з дадзеным перыядам часу. Прапорцыі нематываваных і матываваных кампанентаў мяняюцца не толькі паміж рознымі мовамі, але і ўнутры адной мовы, таму што страчаная ўнутраная форма (матываваная сувязь паміж планам зместу і планам выражэння) можа аднаўляцца шляхам этымалагічных даследаванняў. Але і пры гэтым застаюцца нявырашанымі многія пытанні. Калі, напрыклад, назву беларускага месяца *сакавік* мы можам растлумачыць тым, што яна звязана з пачаткам ўтварэння веснавога бярозавага соку, то адкуль паходзіць слова *сок* і яму падобныя? Гэта ставіць у тупік спецыялістаў. У кожнай мове існуюць зыходныя кампаненты, што на першы погляд не маюць у сваёй форме сувязей са зместам, які вызначаюць. Напрыклад, у рускай мове сярод асноўных намінатыўных кампанентаў адзначаецца каля 10 % нематываваных кампанентаў (для беларускай мовы такіх падлікаў ніхто не рабіў). Частка нематываваных лексічных кампанентаў у мове, нават добра даследаванай, застаецца на сённяшні дзень нявысветленай, але спадзяванні для вырашэння іх матывацыі ёсць: па-першае, за кошт прыцягнення фактаў іншых роднасных моў, дзе адпаведныя кампаненты могуць быць матываванымі (напрыклад, беларускае і рускае слова *ватрушка* не мае матывацыі, але ў іранскіх мовах зафіксавана слова *ватра* 'агонь', якое, відаць, здаўна запазычана адсюль і лягло ў аснову абазначэння адпаведнага кулінарнага вырабу, прыгатаванага на адкрытым агні); па-другое, за кошт адкрыцця новых форм матывацыі, гэта значыць не толькі гукапераймальным ці словаўтваральным спосабам, але і іншымі шляхамі, якія трэба знайсці ў мовазнаўстве; па-трэцяе, вырашэнне праблемы, магчыма, знаходзіцца ва ўнутраных сувязях, якія яшчэ маюць глыбокі імпліцытны (невыразны) характар, але таксама па меры ўдасканальвання і распрацоўкі лінгвістычных метадаў даследавання могуць быць выяўлены і прадстаўлены ў эксплiцытнай (выразнай) форме.

Калі па ўяўнай гарызантальнай лініі план выражэння чleніцца даволі

паслядоўна і адназначна (параўнайце: сказ, словазлучэнне, слова, марфема, склад, гук), то ў вымярэнні мовы па вертыкалі тут звычайна вылучаюцца толькі знешняя і ўнутраная формы. Першая прадстаўлена гукамі і пісьмовымі знакамі, другая — тымі сродкамі, якія злучаюць форму і значэнне, план выражэння і план зместу ў адзінае цэлае. Але нават і ў блізкароднасных мовах паміж гэтымі планамі фіксуюцца ўнутраныя формы, якія не супадаюць. Так, назва беларускага месяца *жнівень* матывавана дзеяннем жаць, а аналагічны месяц у чэшскай і польскай мовах srpeń і sierpień матывуюцца інструментам жніва — сярпом, а ў рускай, славенскай і сербскахарвацкай мовах гэты ж месяц называецца нематываваным словам.

Праведзеныя псіхалінгвістычныя эксперыменты з носьбітамі розных моў даволі яскрава паказваюць тэндэнцыю надзялення пэўных гукаў пэўным зместам: напрыклад, гук [і] асацыіруецца з нечым маленькім, тонкім, гукі [а] і [у] — з вялікім, [л] — з мяккім, пяшчотным, [р] — з грубым, раскацістым і г. д. Таму прыгажосць і прывабнасць маўлення залежаць не толькі ад прамога зместу, але і ад выбранай формы, якая ўключае інтанацыю, акцэнтаванне, гучнасць і іншыя акустычныя асаблівасці нашай мовы. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што паміж планам выражэння і планам зместу натуральных моў існуюць матываваныя адносіны, якія ў адных кампанентаў знешняй формы праяўляюцца выразна, у другіх менш выразна, у трэціх маюць толькі лёгкі намёк на матываванасць, у чацвёртых матываваныя адносіны могуць знаходзіцца як бы ў спячым стане, але пры выпадку таксама здольны праяўляцца адкрыта і выразна. Так, граматычная катэгорыя роду ў неадушаўлёных назоўнікаў практычна не асацыіруецца ў носьбітаў беларускай мовы з адпаведным біялагічным полам, аднак пры паэтычным выкарыстанні такіх слоў семантычная катэгорыя полу, якая драмала, можа прачнуцца (напрыклад, Я. Купала ў вершы «Шэпчацца явар з калінаю» свядома проціпастаўляе мужчынскі і жаночы род назваў дрэў для дасягнення большай вобразнасці зместу твора).

*Літ.:* Блинова О. И. Явление мотивации слов: (Лексиколог. аспект). Томск, 1981; Будагов Р. А. Язык — реальность — язык. М., 1983; Верещагин Е. М. Слово: соотношение планов содержания и выражения // Вопросы порождения речи и обучения языку. М., 1967; Журавлев А. П. Звук и смысл. М., 1981; Левый И. Значения формы и формы значений // Семиотика и искусствометрия: Сб. переводов. М., 1972. Ч. 1—3; Мамардашвили М. К. Формы и содержание мышления. М., 1968; Плотников Б. А. О форме и содержании в языке. Мн., 1989; Шпет Г. Внутренняя форма слова. М., 1927; Языковая номинация: (Общие вопросы). М., 1977; Якобсон Р. В поисках сущности языка: Пер. с англ. // Семиотика. М., 1983.

*Б. А. Плотнікаў.*

## ПОЛІСЕМІЯ

Полісемія (poly многа + sēma знак) — гэта ўласцівасць слова мець не адно, а некалькі значэнняў. Кожнае значэнне мнагазначнага слова стала замацавалася ў мове і адлюстроўваецца тлумачальнымі слоўнікамі. Напрыклад, прыметнік *розны* можа ўжывацца ў значэннях 'непадобны, адметны' *(розныя лёсы)*, 'разнастайны' *(розныя ўпрыгожанні)* і 'іншы, не той самы' *(розныя напрамкі)*.

У момант узнікнення слова заўсёды аднназначнае. У працэсе моўнай практыкі яго семантычная структура можа ўскладняцца шляхам развіцця новых значэнняў. Гэта адбываецца тады, калі прадметы, з'явы, дзеянні альбо іх прыкметы маюць нейкія агульныя рысы, што дазваляе іх параўноўваць і супастаўляць між сабой. На падставе асацыятыўнай сувязі ўзніклі, напрыклад, такія новыя значэнні: *льецца вада — льецца гаворка, цвёрды грунт — цвёрды адказ, нізаць пацеркі — нізаць слова на слова.* Такія значэнні называюцца пераноснымі, яны групуюцца вакол асноўнага, прамога значэння. Ад пераноснага прамое значэнне адрозніваецца тым, што яно незалежнае, пераноснае ж заўсёды абумоўлена кантэкстам. Так, мнагазначнае слова *джала* найперш звязваецца з паняццем 'калючы орган самаабароны насякомых'. Гэта прамое значэнне, але ім не вычэрпваецца ўвесь семантычны змест слова. Сувязь гэтага літаральнага значэння з пераносным, залежным, якое раскрываецца ў кантэксце, відочная: *Перад... вачамі ўспыхнулі вогненныя вострыя іскры, што пранізалі галаву безліччу пякучых джал* (І. Мележ).

Якую б складаную структуру ні мела мнагазначнае слова, у кантэксце яно заўсёды канкрэтызуецца, кожны раз праяўляючы адно са сваіх патэнцыяльных значэнняў. У мастацкай літаратуры сустракаецца прыём абыгрывання і прамога, і пераноснага значэнняў слова ў межах аднаго кантэксту: *Тут месяц ні пры чым. Няхай плыве ягоны серп над палявой дарогай — адзіны серп на сённяшнім жніве* (А. Куляшоў). Назвы некаторых літаратурных твораў, хаваючы ў сабе падтэкст, таксама даюць магчымасць неадназначна іх вытлумачваць: «На ростанях», «Кар'ер», «Птушкі і гнёзды» і г. д.

Суадносіны паміж прамым і пераносным значэннямі мнагазначнага слова з цягам часу мяняюцца. Пераносныя значэнні могуць пашырыцца і ў выніку зусім выцесніць прамое. Сучасная беларуская мова не захавала прамых зыходных значэнняў старажытнарускіх слоў *смага* — 'агонь', *сорокъ* — 'звязка з сарака сабаліных шкур', *ховатисѧ* — 'берагчыся', *могутъ* — 'знатны'. Былыя пераносныя значэнні сёння цалкам вызначаюць іх семантычны аб'ём.

Часцей за ўсё структура мнагазначнага слова развіваецца радыяльна ад асноўнага прамога значэння. У выразах *мора жытоў* і *мора слёз* увасабляюцца пераносныя значэнні слова *мора* — 'вялікая прастора' і 'вялікая колькасць', што ўзніклі на грунце зыходнага — 'вялікі водны басейн, абкружаны сушай'. Але гэта не адзіны шлях. У выніку другаснага пераносу новае значэнне можа ўзнікнуць і на базе ўжо вядомага пераноснага. Так, лінейна ішло развіццё семантыкі слова *натура*: 1) устарэлае 'прырода': *Зноў шалее ўся натура* (Цётка); 2) 'жывыя істоты, з'явы, прадметы рэальнага свету, у адрозненне ад таго, што адлюстроўваецца': *маляваць з натуры*; 3) 'тавары або прадукты як сродак аплаты замест грошай': *плаціць натурай*.

У некаторых полісемантах немагчыма размежаваць прамое і пераноснае значэнні. Гэта наглядаецца тады, калі структура мнагазначнага слова сфарміравалася ў выніку шматлікіх словаўтваральных актаў паводле адной і той словаўтваральнай мадэлі, як у словах *падарожнік, начніца, падшыўка, нізка, макрыца.*

Значэнні мнагазначнага слова з'яднаны агульнай семантычнай залежнасцю, якая, па сутнасці, і робіць іх значэннямі менавіта аднаго слова, у адрозненне ад семантычна аўтаномных слоў-амонімаў. Напрыклад, слова *васьмярык* можа абазначаць: 1) 'запрэжка з васьмі коней' і 2) 'старая мера вагі і аб'ёму'. Агульны семантычны кампанент, які аб'ядноўвае гэтыя значэнні, можна азначыць як 'цэлае, што складаецца з васьмі частак'.

Калі ланцужок сэнсавай залежнасці паміж значэннямі рвецца, то яны выступаюць ужо як самастойныя асобныя словы. Былая семантычная сувязь такіх амонімаў можа ўсведамляцца ў большай або меншай ступені. Параўнайце: *журавель* — 'балотная птушка з доўгімі нагамі' і *журавель* — 'прыстасаванне пры калодзежы'; *світа* — 'сялянская верхняя вопратка' і *світа* — 'акружэнне важнай асобы'.

У залежнасці ад прыкметы, пакладзенай у аснову пераносу назвы з аднаго прадмета, з'явы або якасці на другія, адрозніваюцца некалькі спосабаў развіцця новых значэнняў — метафара, метанімія і сінекдаха.

У аснове метафарычнага пераносу ляжыць падабенства суадносных прадметаў паводле розных прыкмет: па форме (*вянок кветак — вянок санетаў, палойка лёну — палойка валасоў*); па функцыі (*прылій у моры — прылій сіл, снежнае пакрыва — пакрыва ночы*); па колеры (*залаты га-*

*дзіннік — залаты прамень, сівыя валасы — сівыя горы*); па месцы размяшчэння (*падэшва чаравіка — падэшва гары, хвост яшчаркі — хвост каметы*) і інш. Метафара можа ўзнікаць у выніку пераносу назвы, замацаванай за абстрактнымі паняццямі і прадметамі нежывой прыроды, на якасці, уласцівасці і дзеянні жывых істот: *тэатральны сезон — тэатральны жэст, цёплае надвор'е — цёплае пачуццё, прамы нос — прамы чалавек.* І наадварот, прыкметы і дзеянні жывых істот становяцца асновай для найменняў прадметаў нежывых: *шалёны звер — шалёныя грошы, хвалюецца маці — хвалюецца жыта.*

Адрозніваюць агульнамоўныя метафары, або метафары-назвы, і вобразныя. Высокая ступень пашырэння метафар-назваў спрыяе аслабленню асацыятыўнай сувязі і разбурэнню вобразнасці, закладзенай у пераасэнсаванні. Значэнні, якія ўзніклі ў выніку пераносу назвы, пачынаюць успрымацца як прамыя: *века дзяжы, крыло ветрака, геаграфічны пояс.* У вобразных метафарах суіснуюць два планы — прамая намінацыя і вобразнае найменне, заснаванае на параўнальнай характарыстыцы: *сухар* — 'нячулы чалавек', *камень* — 'душэўны цяжар, гора', *штамп* — 'агульнаўжывальны, збіты моўны ўзор'. У слоўніку такія значэнні падаюцца з паметай *перан.*

Полісемія ўзнікае ў выніку метанімічнага пераносу паводле сумежнасці з'яў і прадметаў, звязаных прасторавымі або часавымі суадносінамі. Моўная практыка замацавала метанімічнае значэнне слова *аўдыторыя*, у аснове якога ляжыць прасторавая сумежнасць: *светлая аўдыторыя — удзячная аўдыторыя.* Такія ж суадносіны звязваюць значэнні слоў *вядро: вядро вады — разліць вядро; жменя: расцерці ў жмені — жменя зярнят.*

На часавай сумежнасці заснавана метанімія, пры якой слова выкарыстоўваецца для назвы дзеяння або працэсу і яго выніку: *афарбоўка тканіны — стракатая афарбоўка, энергічная праца — надрукаваная праца, механізаваць памол — дробны памол.* Існуюць і іншыя віды прасторавай і часавай сумежнасці.

Калі назва цэлага выкарыстоўваецца для абазначэння яго часткі або наадварот, то ўзнікае такі від полісеміі, як сінекдаха: *Кароткая бравэрка зноў штосьці тлумачыла ў натоўпе* (К. Чорны). Слова *бравэрка* ўжываецца не ў традыцыйным значэнні 'верхняя кароткая мужчынская вопратка', а ў пераносным — 'чалавек у такой вопратцы'.

Сінекдаха з'яўляецца адным са сродкаў стварэння камічнага эфекту. З яе дапамогай сцэна з рамана Р. Мурашкі «Сын» набыла адценне мяккага гумару: *Вось вылезла за вароты з двара аднаго бараповая шапка, зірнула асцярожна на бакі і застыла на вуліцы пры плоце. Праз хвіліну недалёка выплішчыўся аблезлы кажушок, падпеpазаны конскім путам. Кажушок угледзеў бараповую шапку, падумаў і накіраваўся да яе. Дайшы адзін аднаму «дзень добры», пахавалі рукі ў рукавы (мароз узяўся) і больш не азваліся ні словам, памоўклі. Тады з трэцяга двара вылезла сівая барада і, пакрэктваючы, прыдыбала да двух.*

Побач з аб'ектыўнымі агульнамоўнымі спосабамі развіцця значэнняў, якія прыводзяць да ўзнікнення новых устойлівых семантычных адзінак, існуюць індывідуальныя, абумоўленыя кантэкстам, метафарычныя і метанімічныя пераносы назваў, перш за ўсё як сродкі стварэння мастацкай выразнасці. Такія семантычныя пераносы нясуць на сабе адзнаку суб'ектыўнага апісання аднаго прадмета з дапамогай другога праз асацыяцыю аўтара, таму яны не адлюстроўваюцца ў слоўнікавых артыкулах. Аўтарскія метафарычныя асацыяцыі знаходзім у наступных сказах: *Гляджу я задуменнымі вачамі на астравы густыя лапуховы* (А. Коршак); *Ломкая дажджой салома не стамляецца шумець* (У. Караткевіч); *Мчыць ўссмылены статак машын* (Р. Барадулін).

Не набылі агульнамоўнага ўжывання і метанімічныя назвы прадмета паводле яго прыкметы. У мастацкай жа літаратуры такі выяўленчы прыём вельмі пашыраны: *Па той бок вуліцы ў суседнім садзе звісала над плотам вясёлая цяжкасць чырвоных арабін* (К. Чорны); *Шчупак нарэшце папаўся... Аднак калі на дно лодкі ўпала гэтая зеленавата-празрыстая прыгажосць — першы дар маці-прыроды,— хлопцы неяк адразу ўспомнілі пра голад* (Я. Брыль).

Полісемія — адзін з важных шляхоў развіцця і ўдасканалення лексіка-семантычнай сістэмы мовы. Узнікшы і замацаваўшыся ў маўленчай практыцы, новыя значэнні слова ўзбагачаюць мову, служаць крыніцай вобразнасці.

*Літ.:* Абабурка М. В. Беларускае слова і яго вывучэнне. Мн., 1986; Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1980; Красней В. П. Грані слова: Факультатыўны курс «Лексіка і фразеалогія бел. мовы». Мн., 1986; Красней В. П., Лазоўскі У. М, Шчарбакова І. М. Сучасная беларуская мова: Лексікалогія. Фразеалогія. Мн., 1984.

*І. Р. Шкраба.*

## ПОЛЬСКАЯ МОВА

Польская мова — нацыянальная мова палякаў і дзяржаўная мова Рэспублікі Польшча, дзе на ёй гавораць каля 38 млн. чалавек. Некалькі мільёнаў польскамоўнага насельніцтва жыве за мяжой (Францыя, Англія, ЗША, Канада, Аўстралія, краіны Лацінскай Амерыкі). У былым СССР палякі жылі на Беларусі, у Літве, Латвіі, Казахстане, РСФСР, на Украіне і ў іншых рэспубліках (каля 1200 тыс. чалавек). Разам з чэшскай, славацкай і сербалужыцкімі мовамі належыць да заходнеславянскіх моў, уваходзячы ў т. зв. лехіцкую падгрупу (разам з палабскай мовай, якая перастала існаваць у 18 ст., са славінскім дыялектам, асіміляваным польскай мовай у першай палове 20 ст., і з кашубскімі гаворкамі, якія некаторыя вучоныя вылучаюць у асобную славянскую мікрамову). Лехіцкая падгрупа моў фарміравалася ў 8—10 ст.; пазней прахoдзіла адасабленне яе ўсходняй часткі ад асноўнага масіву, што з'явілася пачаткам дапісьмовай гісторыі польскай мовы. Звесткі пра польскі народ і плямёны, якія яго ўтваралі, можна знайсці ў старажытных хроніках 11 ст. Першы гістарычна вядомы польскі князь Мешка І з дынастыі Пястаў прыняў у 966 г. хрысціянства (рымска-каталіцкага абраду). Гэта спрыяла аб'яднанню польскіх зямель і ўключала іх у сферу грамадска-палітычнага, культурнага і рэлігійнага ўплыву Заходняй Еўропы.

Першыя пісьмовыя помнікі польскай мовы (Свентакшыскія казанні, Фларыянскі псалтыр і інш.) адносяцца да 14 ст. Як літаратурная, мова складалася ў выніку ўзаемадзеяння велікапольскіх, малапольскіх і мазавецкіх гаворак, бо спачатку палітычным і культурным цэнтрам была Велікапольшча (землі вакол г. Познань), пасля Малапольшча (сталіца — г. Кракаў), а з 17 ст.— Варшава. На польскую літаратурную мову на раннім этапе яе станаўлення зрабіла ўплыў чэшская мова, а пазней — латынь, якая доўгі час заставалася галоўнай пісьмовай мовай польскіх земляў — мовай рэлігіі, каралеўскай адміністрацыі, судаводства, школы, культуры і навукі. Гэта стрымлівала развіццё польскай літаратурнай мовы. Уплыў лацінскай мовы на польскую (часта праз чэшскую ці нямецкую) назіраецца ў лексіцы, сінтаксісе і нават у словаўтварэнні. У сваю чаргу, польская мова была перадатчыцай шматлікіх лацінізмаў і германізмаў у старабеларускую і стараўкраінскую мовы.

Пранікалі ў старабеларускую мову, асабліва пасля Крэўскай уніі 1385 г., калі ўзмацніўся палітычны і ваенны саюз Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, і ўласнапольскія словы. Найбольш інтэнсіўна гэты працэс адбываўся пасля Люблінскай уніі 1569 г. і ў 17 ст., калі паланізмы становяцца ўласцівымі для ўсіх жанрава-стылявых разнавіднасцей старабеларускага пісьменства: *владца* 'уладар', *завядовца* 'загадчык', *пелкгрымацыя* 'падарожжа', *звытяжца* 'пераможца', *влость* 'буйны маёнтак', *волати* 'крычаць', *латвый* 'лёгкі', *піл(ь)новати* 'сачыць', 'прытрымлі-

вацца', *липецъ* 'ліпень', 'ліпавы мёд' *каштелянъ* 'камендант замка', *мандат* 'каралеўскі ўказ', 'выклік у суд', *щекгульный* 'асаблівы', *ялмужна* 'міласціна' і шмат іншых. Некаторыя словы запазычваліся цэлымі гнёздамі: *нендза, нендзне, нендзный, нендзница, нендзникъ, знендзненый.* Многія з іх бытуюць у сучаснай беларускай мове, іншыя сталі гістарызмамі або змянілі сваё аблічча і значэнне. Асобныя словы былі запазычаны другі раз у 19—20 ст., праўда, у значна меншай колькасці, часам праз рускую мову: *апарат*.

Суседзі палякаў — беларусы — таксама аказалі пэўны ўплыў на развіццё польскай мовы. У 17—18 ст. у яе пранікаюць фанетычныя і граматычныя рысы дыялектаў заходніх раёнаў Беларусі, якая ўваходзіла тады ў склад Польскай дзяржавы. Адчувальным быў уплыў беларускай мовы і на ўзроўні лексікі. У гэты час польская мова засвойвае беларусізмы: *braha, chwost, dubas* 'від лодкі', *hałas, harmider, hodowla, hołoble, huba* 'чага', *hultaj, odzieża, kolasa* 'калёсы', *pohaniec, sorom, wiereszczaka, ohydny, zbroja, harować* 'цяжка працаваць', *błaho* 'блага'.

Выдатную ролю ў развіцці польскай мовы ў 19 ст. адыгралі пісьменнікі — носьбіты памежных гаворак (з усходніх «крэсаў» Польшчы) — А. Міцкевіч, Э. Ажэшка, У. Сыракомля, М. Канапніцкая і інш. Спрыялі моўным дачыненням і суседнія беларускія гаворкі, з якімі штодзённа сутыкалася польская шляхта і мяшчане. Пры гэтым у запазычаных словах у сувязі з пераносам націску на перадапошні склад мяняліся галосныя кораня *(brechać, makohon)*, не ўзнаўляліся насавыя галосныя *(naduć sie* — польск. *nadąć się)*, не адрозніваліся гукі [х] і [г], а літара *w* вымаўлялася як [ў] *(łastowka)*. У гэты перыяд былі запазычаны такія беларусізмы, як: *świerzop* 'свірэпа', *czchoć* 'імчацца', *czmychać* 'уцякаць', *pac (uk), bzykać, kniga* 'кнігаўка', *bojka / bijanka, capilna, pierawiaź, duha, śloza, kidać, odliga* і інш.

Алфавіт польскай мовы (32 літары) створаны на лацінскай аснове з шэрагам характэрных дапаўненняў для польскіх гукаў: дыграфы *cz, dz, sz, dż, rz, ch* (для *ч, дз, ш, дж, ж, х*) і група дыякрытычных знакаў над літарамі *ś, ź, ć, dź, ń* (для *сь, зь, ць, дзь, нь*), *ó* (для гука [у], які паходзіць са старага *о), ż* (для *ж*) і літары *ę, ą* (для насавых гукаў *э* і *о*). Літара *i* перад галоснай у польскіх словах абазначае мяккасць папярэдняй зычнай (*pień* [пень]), а ў запазычаных словах вымаўляецца як [й]: *radio* [радйо], *melodia* [мэлёдйа]. Літара *j*, блізкая па гучанні да беларускай [й] (*maj* [май]), перад галоснымі (за выключэннем *i*) разам з імі перадае гукі [я], [е], [ё], [ю], [йэ̃], [йõ] *(ja, jest, jod, już, kryję, moją)*. Літара *l* перадае мяккі палаталізаваны гук [ль] толькі ў спалучэнні з *i (list)*; перад галоснымі *a, e, o, u* польскае *l* вымаўляецца як заходнееўрапейскае *l* (кончык языка датыкаецца да альвеол). Літара *ł* вымаўляецца дваяка: як цвёрды велярны [л], што адпавядае традыцыйнай арфаэпічнай норме, і як нескладовае [ў], якое зараз таксама адпавядае літаратурнай норме. Гук [в] абазначаецца літарай *w (wóz)*. Літара *h* перадае гук [х] і пішацца ў замежных словах (у тым ліку і запазычаных са славянскіх моў) і ў польскіх выклічніках *(herbata, humanizm, huk, hałas, ha, hej)*. Літары *v, x, q* ужываюцца толькі пры напісанні запазычаных слоў і замежных уласных імёнаў, *g* абазначае выбухны гук [г] (як у рускай мове *г*), літара *y* перадае гук [ы].

Для польскай фанетыкі характэрна сталае месца націску на перадапошнім складзе, энклітыкі (кароткія формы асабовых займеннікаў *mi, ci, mię, cię, mu, go,* зваротны займеннік *się,* часціцы *-no, -że, -bądź: pòwiedzno, gdziebądź*) і праклітыкі *(niè ma go tam, przyjdź dò nas, pojechałem nà wieś)*, аглушэнне звонкіх перад глухімі шумнымі або калі наступнае слова пачынаецца з санорнай *(chleb leży* [хлеп лежы]), азванчэнне глухіх (за выключэннем *w, w' rz)* перад звонкімі шумнымі *(prośba* [прозьба]), аглушэнне *w, w', rz* пасля глухіх *(twardy* [тфарды], *swój* [сфуй], *ćwiczenie* [цьфічэне], *trzy* [тшы], *przed* [пшэт]), вымаўленне ў канцы слова перад паўзай толькі глухіх шумных *(nóż* [нуш], *pisarz* [пісаш], *wóz* [вус], *dziad* [дзят]) і інш.

Польская і беларуская сістэмы часцін мовы ўяўляюць прыблізна адзін і той структурна-тыпалагічны тып. Найбольш пашыраныя ў ім флектыўныя формы, што ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў і канчаткаў, аднак у польскай мове аналітычныя формы, г. зн. формы, утвораныя з дапамогаю дапаможных слоў (формы складанага будучага часу, апісальныя ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў і г. д.), ужываюцца часцей, чым у беларускай. Пашырана ў польскай мове флектыўна-аглюцінуючая форма прошлага часу: *napisałem* 'я напісаў', *napisaliśmy* 'мы (мужчыны або мужчыны і жанчыны) напісалі', *napisałyśmy* 'мы (жанчыны) напісалі'. Катэгорыя адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці мае больш фармальны, чым у беларускай мове, характар. Яна ўласціва толькі назоўнікам мужчынскага роду ў адзіночным ліку і афармляецца ў родным і вінавальным склонах *(ojca, psa, ptaka)*, а катэгорыя мужчынскай асобы рэалізуецца толькі ў форме множнага ліку назоўнага і вінавальнага склонаў як самога назоўніка, так і слоў, якімі ён кіруе (наз. скл. *młodzi studenci byli,* але *czerwone kwiaty, koguty były;* він. скл. *widzę młodych studentów,* але *widzę czerwone kwiaty, koguty, nowe teatry*).

У польскай мове існуюць 2 лікі, 3 роды, 6 склонаў (кожны з якіх можа выступаць без прыназоўніка і з ім, а месны склон — заўсёды з прыназоўнікам) і клічная форма ў назоўніках




**Б. Друцкі-Падбярэскі. «Падручны беларуска-польскі слоўнік» (разгорнуты тытул). 1929.**




**«Падручны польска-беларускі слоўнік» (разгорнуты тытул). 1962.**

адзіночнага ліку *(Stasiu, Marto!)*. Есць 5 тыпаў скланення назоўнікаў, з іх 3 — цвёрдай і мяккай разнавіднасці.

Семантыка і сінтаксічная канструкцыя аналагічных польскіх і беларускіх форм у значнай ступені супадаюць *(potrzebować czego* 'патрабаваць чаго'), аднак могуць быць і фармальныя адрозненні ў кіраванні дзеясловаў, прыметнікаў і інш.: *cieszyć się z kogo / czego* 'цешыцца кім /чым'; *bogaty w co* — 'багаты чым'; *starszy o pięć lat* — 'старэйшы на пяць гадоў'; *przyjdź za dwa dni* — 'прыйдзі праз два дні'; *jechać do Warszawy* — 'ехаць у Варшаву'.

Прыметнік не мае самастойнага лексіка-граматычнага разраду прыналежных. Прыналежнасць, як правіла, выражаецца назоўнікам у родным склоне: *zeszyt ojca* — 'бацькаў сшытак'. Як і ў беларускай, у польскай мове няма проціпастаўлення поўных форм прыметнікаў кароткім, якія захаваліся толькі ў асобных прыметніках *(zdrowy — zdrów, gotowy — gotów, pełny — pełen)*. Польскаму прыметніку ўласціва таксама катэгорыя мужчынскай асобы, высокая ступень уніфікаванасці склонава-лікавых форм; катэгорыю ступені параўнання маюць толькі якасныя прыметнікі [*słaby — słabszy, mądry — (naj)mędrszy* або *(naj)mądrzejszy, typowy — bardziej typowy — (naj)bardziej typowy*].

Назоўнік у спалучэнні з лічэбнікам (апрача лічэбніка *jeden*) заўсёды стаіць у множным ліку і ва ўскосных склонах дапасоўваецца да лічэбніка: *z pięciuset studentami* 'з пяццюстамі студэнтамі'.

У польскай мове адсутнічаюць займеннікі тыпу *нехта — нешта, некага — нечага*, але ёсць займеннікі са значэннем кірунку (*którędy* 'як, якой дарогай', *tamtędy* 'тым шляхам, той дарогай'), якія ў беларускай мове сустракаюцца толькі ў гаворках. У польскіх асабовых займенніках ва ўскосных склонах існуюць поўная і кароткая формы *(ciebie — cię, mnie — mię, jego — go)*, у функцыі займеннікаў 2-й асобы выкарыстоўваюцца назоўнікі *pan, pani, państwo* і прыметнік *pański*.

Для дзеяслова характэрнымі з'яўляюцца спецыфічныя прэдыкатыўныя формы, якія не маюць значэння пэўнай асобы (*mówiono* 'гаварылі'), а таксама формы 3-й асобы з *się: tu mówi się po polsku* 'тут гавораць папольску', *buduje się nowe domy* 'будуюць новыя дамы'. У польскай мове захавалася форма даўнамінулага часу, якая ў беларускай сустракаецца толькі ў некаторых гаворках: *czytałem był* — 'быў чытаў'. Дзеясловы ў будучым часе, апрача складанай формы *być*+інфінітыў (*będę czytać* — 'буду чытаць'), маюць форму *być* +дзеепрыметнікавая аснова на *-ł (będę czytał* — 'буду чытаць'). Шырэй ужывальныя, чым у беларускай мове, дзеепрыметнікі.

Пры ветлівым звяртанні да субяседніка па-польску трэба ведаць не толькі колькасць, але і пол субяседнікаў: да аднаго чалавека — *widzisz, pan widzi, pani widzi, widzicie* (рэдка) — 'бачыш', Вы бачыце'; да некалькіх — *widzicie, panowie widzą, panie widzą, państwo widzą, państwo widzi, państwo widzicie* (рэдка) — 'бачыце'.

Для сінтаксісу польскай мовы характэрны своеасаблівы парадак слоў (група дзейніка стаіць перад групай выказніка, а дапасаванае азначэнне ва ўстойлівых зваротах, як правіла, знаходзіцца пасля азначаемага слова), неабходнасць ужываць звязку *być* у цяперашнім часе *(jestem student* — 'я студэнт'), ужыванне займенніка *to (oto)* у якасці звязкі (*Rzym to stolica Włoch* — 'Рым — сталіца Італіі') і інш.

Вывучэнне паланістыкі (польскай філалогіі) на Беларусі ўзыходзіць да пачатку 20 ст. і звязана з працамі Я. Ф. Карскага і Я. Ваўка-Левановіча. У апошнія дзесяцігоддзі праблемы польскай мовы даследуюць Ю. Ф. Мацкевіч, Г. У. Арашонкава, В. Л. Вярэніч, К. М. Гюлумянц, А. Я. Супрун, А. І. Жураўскі, А. М. Булыка, Г. В. Пальцаў і іншыя вучоныя. Мастацкім перакладам з польскай мовы на беларускую займаюцца М. Танк, Я. Брыль, Максім Лужанін, У. Мархель, К. Цвірка, Я. Сіпакоў і інш.

*Літ.:* Польские говоры в СССР. Ч. 1—2. Мн., 1973; Беларуска-польскія ізалексы: (Матэрыялы для абмеркавання). Мн., 1975; Пальцев Г. В. Польский язык. Мн., 1984; Studia nad polszczyzną kresową. T. 1—5. Wrocław etc., 1982—90.

*І. І. Лучыц-Федарэц.*

## «ПРАМОВА ІВАНА МЯЛЕШКІ»

«Прамова Івана Мялешкі» — пародыйна-сатырычны ананімны твор беларускай старажытнай літаратуры канца 16 — пачатку 17 ст. напісаны ў форме сеймавай прамовы, якая прыпісваецца смаленскаму кашталяну Івану Мялешку (памёр у 1622 г.). Крытычны пафас прамовы накіраваны супраць палітычных парадкаў Рэчы Паспалітай, засілля чужаземцаў, немцаў і палякаў, супраць бяздзейнасці шляхты і занядбання даўніх народных звычаяў у побыце, адзенні, ежы. Такі змест і форма вуснай прамовы правінцыяльнага шляхціца, чалавека з вялікім пачуццём чалавечай і нацыянальнай годнасці, прадвызначылі блізкасць мовы помніка да гутарковай народнай мовы. Гэты невялікага памеру твор займае прыкметнае месца ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы як пэўны этап фарміравання функцыянальных стыляў старабеларускай літаратурнай мовы на шляху ўзаемадзеяння яе з народнай. Збліжэнне з жывой беларускай мовай праявілася найперш у асаблівасцях арфаграфічнай сістэмы помніка. Пры бясспрэчнай перавазе традыцыйных для старабеларускага пісьменства арфаграфічных норм назіраецца даволі шырокае адлюстраванне на пісьме фанетычных з'яў жывой беларускай мовы.

Так, у цэлым шэрагу выпадкаў перадаецца цвёрдасць *р* (пераважна перад этымалагічным *и*): *прыждати, скрыпить, прыѣде, прыласкается, поговорылисмы, тры, плюндрыки, варыты, рыжовая, дворанинъ*. Характэрным для тагачаснай беларускай мовы было ацвярдзенне не толькі шыпячых, але і *ч*, што перадавалася ў такіх напісаннях: *личыть, паничыкъ, кажучы, собачымъ, вынищылъ* (таксама ў пазіцыі перад *и*). Уласцівы жывой беларускай мове пераход *л* у *ў* адлюстраваны (у адзінкавых выпадках) праз напісанне літар *в* і *у* на месцы *л*: *зрозумѣвъ, несмотрыуся, моучкомъ*. Характэрнай фанетычнай прыкметай народнай мовы з'яўляецца замена гука *ф* гукамі *п, хв*: *хвалендышовую, португале*, але гэта з'ява таксама непаслядоўна адлюстраваная (побач адзначаны *фортугале, фляшка*). Пад уздзеяннем жывой народнай мовы ў арфаграфію помніка пранікаюць такія напісанні, як *гето, гетакихъ* (адлюстраванне пратэтычнага гука *г*), *змешалися, з васъ, зъ рогатыною* (асімілятыўнае азванчэнне зычных), *дзюбали* (змякчэнне зычнага *д*).

Характар даволі ўстойлівай арфаграфічнай рысы набывае перадача цвёрдасці гукаў *д, т, с, п* перад *и: годыны, радыты, мутыты, сыдытъ, ходывали, схопылъ, крутылъ* (з некаторымі нязначнымі адступленнямі), што звязана з дыялектнай асаблівасцю беларускага кансанантызму, уласцівай гаворкам паўднёвага захаду Беларусі.

Граматычныя рысы помніка пераважна адпавядаюць той сукупнасці граматычных норм, якая характэрна для тагачаснай літаратурнай мовы беларускіх пісьмовых помнікаў публіцыстычнага жанру. Але разам з тым у варыянтах граматычных форм адлюстраваліся некаторыя дыялектныя з'явы. Гэта датычыць дзеяслоўных форм 3-й асобы адзіночнага ліку без канчаткаў: *иде, поступае*, што таксама пацвярджае сувязь мовы помніка з паўднёвымі гаворкамі Беларусі.

У адпаведнасці з жанрам вуснай прамовы тэкст твора арганізаваны пры дапамозе сінтаксічных зваротаў *(найяснейшій король, милостивые паны братия, милостивые панове, панове братіа)*, якія аб'ядноўваюць асобныя раздзелы тэксту. Прамова насычана народнагутарковымі словамі *(сорочка, высокие подковки, печонка зъ цыбулькою, стайня, дѣдко, кулакомь в морду)*, у тым ліку і запазычанымі, якія характарызуюць побыт і свядомасць беларускай шляхты

*(малмазыя, дрыгантъ, малжонка, кролевщизна, сенаторъ)*. Для гутарковага стылю выказвання характэрна шырокае ўжыванне эмацыянальна афарбаваных слоў *(гуска з грыбкамі, кашка з перчыкомь, борщикъ, подолокъ, ножка)*, ужыванне слоў з пераносным значэннем, што стварае новыя сэнсавыя і эмацыянальныя адценні, напрыклад: *зъ великого кубка трубить; медокъ и горѣлочку дзюбали; далисьмы за іего* (гадзіннік) *тры копы грошей, а якосьмы послали до Вильна на направу, ажъ он на пятую копу крутылъ злодѣй заморщыкъ* («падвысіў кошт»). Выказваючы пагарду да той часткі беларускай шляхты, што здраджвае інтарэсам Рэчы Паспалітай і пераходзіць на бок іншаземцаў, аўтар ужывае такі моўны вобраз, які вызначаецца метафарычнасцю словаўжывання і яркай экспрэсіўнасцю: *хоть наша костка, однако собачымъ мясомъ обросла и воняетъ*.

Асаблівасці стылю і мовы помніка, звязаныя з яго жанрам, зместам і камунікатыўнай накіраванасцю, ярка выяўляюцца ў скарыстанні багатай народнай фразеалогіі ў складзе шматлікіх параўнанняў і іншых моўнавобразных канструкцый: *правдою въ ротъ, яко солію въ глаза кидывали; сыдыть какъ бѣсь надувшыся; ржетъ коло дѣвокъ какъ дрыгантъ коло кобылъ; въ ножку, как соколъ, заглядаеть, штобы гдѣ щипнуты солодкого мяса; въ живые очи такого бѣса не упильнуешь; и самъ дѣдко не упильнуетъ*.

«Прамова Івана Мялешкі» ўяўляе вялікую цікавасць для гісторыі беларускай літаратурнай мовы як сведчанне збліжэння пісьмова-літаратурнай мовы з народнай у грамадска-публіцыстычным жанры. Упершыню апублікавана Ю. Нямцэвічам у 1822 г. ў перакладзе на польскую мову. У сучасны момант помнік вядомы даследчыкам па публікацыі 1865 г. ў «Актах, якія адносяцца да гісторыі Паўднёвай і Заходняй Расіі» (і пазнейшых перадруках гэтай публікацыі).

*Літ.:* Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1. Мн., 1961; Ж у р а ў с к і А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Ш а к у н Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984.

*А. І. Яновіч.*

## ПРАСЛАВЯНСКАЯ МОВА

Надзвычайная блізкасць сучасных славянскіх моў сведчыць не толькі пра іх роднасць, але і пра тое, што існавала праславянская мова, якая распалася даволі позна. На самым пачатку ўзнікнення славянскага пісьменства славяне ў кантактах паміж сабой яшчэ цалкам разумелі адзін аднаго. Каб даць агульную характарыстыку прамовы славян, неабходна адказаць на тры пытанні: калі і дзе ўзнікла праславянская мова? якой была яе фаналагічная падсістэма? якой была яе словаўтваральная падсістэма? Паступова выключаючы рэгіёны, куды носьбіты праславянскай мовы прыйшлі пазней, можна вызначыць зыходны арэал, дзе сфарміравалася праславянская мова. Такім арэалам не можа быць вобласць палабян і лужычан (усходняя Германія), куды славяне прыйшлі ў 6—7 ст. н. э. Ім не можа быць рэгіён, які займаюць зараз паўднёвыя славяне. Сюды славяне прыйшлі з паўночнага ўсходу ў 6 ст. і з паўночнага захаду ў 7 ст. н. э. Ім не можа быць тэрыторыя сучасных носьбітаў чэшскай і славацкай моў, дзе славяне рассяліліся ў 4—5 ст н. э. Нарэшце, такім арэалам наўрад ці можа быць рэгіён беларуска-ўкраінскага сумежжа (Палессе), дзе славяне вядомыя ў 2—3 ст. н. э. Пасля выключэння рэгіёнаў больш позняга засялення застаецца тэрыторыя, абмежаваная Одрай на захадзе, Віслай на ўсходзе і няяснай пакуль што мяжой на поўдні. Доказам на карысць заходняй мяжы распаўсюджання праславянскай мовы з'яўляецца наяўнасць славянізмаў у прагерманскай мове (5—3 ст. да н. э.). Такая выснова робіцца на падставе лакалізацыі германцаў у гэты перыяд паміж Одрай і Эльбай. Прагерманская мова на той час яшчэ не распалася, і таму славянізмы распаўсюдзіліся ва ўсіх яе дыялектах. Працяг заходняй мяжы распаўсюджання праславянскай мовы для 5—3 ст. да н. э. складае славяна-кельцкае паграніччa да верхняй Одры і ў Судэтах. Наяўнасць некаторай колькасці кельтызмаў у праславянскай мове пацвярджае гэту лакалізацыю. Калі заходняя мяжа праславянскага моўнага арэала можа быць вызначана на аснове вывучэння славяна-германскіх і часткова славяна-кельцкіх моўных кантактаў, то сам арэал для больш ранніх перыядаў вызначаецца пры дапамозе стратыфікацыі ў прасторы і часе кантактаў з іранскімі (6—5 ст. да н. э.) і італійскімі (12 ст. да н. э.) мовамі. Асаблівы характар іранскага ўплыву на праславянскую мову заключаецца ў тым, што значная частка славянскай сакральнай (абрадавай) лексікі мае іранскую крыніцу, іранскімі паводле паходжання з'яўляюцца і некаторыя граматычныя (службовыя) словы. У 6—5 ст. да н. э. вісла-одэрскае міжрэчча з поўдня падвяргалася нашэсцю скіфаў, што дае падставы для інтэрпрэтацыі праславянскіх іранізмаў. Можна таксама сцвярджаць, што ў перыяд славяна-іранскіх моўных зносін праславянская мова ўжо не ўваходзіла ў балта-славянскае моўнае адзінства. Пра гэта, між іншым, сведчыць назва такога важнага тады металу, як медзь. У славян і балтаў ужо ў 7 ст. да н. э. былі розныя назвы гэтага металу.

Апісанне сістэмы праславянскай мовы, згодна з традыцыяй, пачынаецца з фанетыкі і фаналогіі, а сама фаналогія — з падсістэмы галосных. Простыя галосныя да падзення дыфтонгаў у праславянскай мове зводзяцца да:

| | |
|---|---|
| *і* | *у* |
| *ь* | *ъ* |
| *е* | *о* |
| *ě* | *а* |

Калі ўлічыць процiпастаўленне па працягласці — кароткасці *(і — ь, у — ъ, ě — е)*, то да яго можна аднесці і *о — ă (а — ā)* і тады падсістэму галосных праславянскай мовы можна звесці да

| | |
|---|---|
| *ī̆* | *ū̆* |
| *ē̆* | *ā̆* |

У падсістэме зычных праславянскай мовы шырока прадстаўлена процiпастаўленне па мяккасці — цвёрдасці. Разбурэнне мяккаснай карэляцыі ў паўднёваславянскіх і некаторых іншых славянскіх мовах прывяло да ўзнікнення палатальнага рада. Гэта значыць, што для праславянскай мовы можна рэканструяваць наступную падсістэму зычных:

*ptk p′t′k′ sx*
*bdg b′d′g′ mnrl*

У такім выпадку падсістэма галосных можа быць зведзена да

*ȳ̆*

*ā̆*

г. зн. да процiпастаўлення паводле аб'ёму і працягласці, бо тэмбр пярэдніх галосных вызначаўся праз мяккасць папярэдніх зычных. Калі ўлічыць, што ў праславянскай мове адбылася дэлабіялізацыя *(ū̆ > ȳ̆)*, то для ранняга перыяду развіцця мовы можна рэканструяваць аналагічнае да прабалтыйскага процiпастаўленне

*ī̆* *ū̆*

*ā̆*

Разгляд асноўных характарыстык падсістэмы словаўтварэння праславянскай мовы пераконвае ў тым, што ў гэтай галіне наглядаюцца цесныя сувязі з прабалтыйскай моўнай сістэмай.

Праславянскую падсістэму словаўтварэння імён характарызуюць наступныя іх катэгорыі: дзеючая асоба, асоба, якая названа па галоўнай уласцівасці, прылада, аб'ект уздзеяння, месца дзеяння, дзеянне, уласцівасць.

Для абазначэння 1-й групы выкарыстоўваюцца суфіксы *-telь, -ьnikъ, -čь, -ьcь, -ajь, -alь*; для 2-й групы — суфіксы *-jь, -akъ, -ьnikъ, -ьcь, -unъ*; для 3-й групы — суфіксы 1-й (гэта можна зразумець, калі ўлічыць, што прылады разглядаліся як дзеючыя асобы); для 4-й групы — суфіксы *-ьnirъ* і *-ьcь*, якія супадаюць з суфіксамі 1-й групы. Адсутнасць спецыяльных сродкаў словаўтварэння для гэтай групы тлумачыцца тым, што фактычна кожны прадмет можа быць

аб'ектам. Для абазначэння 5-й групы выкарыстоўваюць суфіксы *-ьná, -iskjo, -isko*; 6-й — суфіксы *-ьje, -ьba, -ьmo*; 7-й — суфіксы *-ostь, -otь, -ota, -tvo, -ьje.*

У адрозненне ад суфіксальнага словаўтварэння імён прэфіксальнае іх словаўтварэнне не характэрна для праславянскай мовы. Найбольш вядомыя тут прэфіксы *pa-, sq-*, якія цалкам страцілі прадуктыўнасць. Не характэрна для гэтай мовы і асноваскладанне (вядомы толькі некалькі прыкладаў — *medvědь, netopyrь, vьlkodlakъ, listopadъ* і інш.). Падсістэма словаўтварэння імён найбольш блізкая да адпаведнай балтыйскай падсістэмы, што сведчыць пра існаванне агульнай протабалтыйскай мовы, да якой узыходзяць як праславянская, так і прабалтыйская.

*Літ.:* Мейе А. Общеславянский язык. М., 1951; Мартынов В. В. Язык в пространстве и времени: К проблеме глоттогенеза славян. М., 1983; Супрун А. Е. Старославянский язык. Мн., 1991. *В. У. Мартынаў.*

## ПРАСОДЫЯ

Прасодыя (грэч. prosōdiá націск, прыпеў) — сукупнасць рытміка-меладычных сродкаў вуснай мовы (працягласць, вышыня, гучнасць), з дапамогай якіх дасягаецца чляненне маўлення і спалучэнне яго асобных частак у адзінае цэлае, а таксама супадпарадкаванасць розных выказванняў і іх частак (фанетычных слоў, сінтагм і фраз).

Фанетычнае слова (самастойнае слова разам з ненаціскнымі службовымі словамі і часціцамі) — найменшая частка вуснай мовы, здольная перадаваць пэўныя значэнні, утвораная слоўным націскам, які групуе і аб'ядноўвае ў адзінае цэлае ўсе склады.

Укараненне эксперыментальных метадаў у лінгвістычныя даследаванні дазволіла значна пашырыць веды пра састаўныя элементы націску — вышыню, гучнасць, даўжыню, тэмбр націскных і ненаціскных галосных, лепш апісваць прасадычную рэальнасць мовы.

У межах сінтагм і фраз графікі колькасных змяненняў прасадычных параметраў уяўляюць сабой лініі, рысункі: гукавышынны, рытмічны, дынамічны, тэмбравы. У сукупнасці яны характарызуюць інтанацыю, мелодыку вуснай мовы.

У Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі ў 1970—80-х г. даследаванні рысункаў вышыні тону і даўжыні галосных беларускай і рускай моў устанавілі, што колькасныя змяненні складоў па вышыні тону і працягласці галосных маюць дыскрэтны (перарывісты) характар. Кожны з галосных складае $^{1}/_{3}$, $^{2}/_{3}$, $^{5}/_{6}$, $^{11}/_{12}$, $^{1}/_{1}$, $^{9}/_{8}$, $^{5}/_{4}$, $^{3}/_{2}$, $^{2}/_{1}$, $^{3}/_{1}$, $^{5}/_{1}$ ад пэўнай базавай велічыні, якую інтуітыўна выбірае прамоўца. Такая сістэма суадносін вядома ў музыцы як сістэма ладу.

Ладавая ўпарадкаванасць прасадычных параметраў у выказванні аб'ядноўвае склады ў групы (фанетычныя словы, рытмагрупы) і адначасова чляніць, размяжоўвае яго на сэнсава значныя часткі. Калі базавыя адзінкі рознай велічыні, то суседнія групы ўспрымаюцца як паасобныя. Аднак калі гэтыя адзінкі суадносяцца як ступені ладу, то паасобныя групы ўспрымаюцца як суцэльныя, звязаныя адна з адной. Такім чынам яны аб'ядноўваюцца ў сінтагмы і фразы.

Даследаванне прасодыі беларускай мовы сведчыць пра супадзенне з гарманічнымі ладамі (мажорным і мінорным). Павольны тэмп беларускага маўлення забяспечвае яго дакладны і дэталізаваны рытмічна рысунак, які аказваецца вядучым у афармленні прасодыі сінтагмы. Афармленне ж фразы ажыццяўляецца меладычным контурам.

Прасадычныя рысункі (гукавышынны, рытмічны, дынамічны) такіх груп могуць або дубліраваць адзін аднаго, або быць рознымі, але ў сукупнасці яны складаюць непарыўную суцэльнасць, што ў музыцы завецца папеўкай, а ў фанетыцы — інтанацыйнай канструкцыяй. Асноўных тыпаў такіх канструкцый у кожнай мове небагата. Камбінуючы іх варыянты, прамоўца стварае розныя інтанацыі выказвання.

Ладавая структура прасодыі пры ўсёй яе прастаце аблягчае ўспрыманне складанага паведамлення і арганізуе ўвагу слухача. Яна дае прамоўцу практычна неабмежаваныя магчымасці для перадачы праз інтанацыю танчэйшых адценняў думак і пачуццяў. Дасканаласць, выразнасць і эфектыўнасць перадачы іх слухачу залежаць ад таго, наколькі дакладна прытрымліваецца прамоўца ладавай будовы гучання, наколькі ўзаемазвязаны яго прасодыя і артыкуляцыя — тое, што ва ўжытку завецца дыкцыяй.

Яшчэ ў мінулым стагоддзі рабіліся спробы даследаваць інтанацыю з пункту погляду музыкі. Але, хоць моўная інтанацыя грунтуецца на тых жа прынцыпах, што і музыка, гукі ў ёй ідуць адзін за адным разоў у восем хутчэй, чым у музыцы. Да таго ж у звычайнай мове амаль што адсутнічаюць метр і такт. У выніку сярод даследчыкаў на дзесяцігоддзі ўсталяваўся скептычны погляд на сувязі інтанацыі з музыкай.

Сучасная тэорыя прасодыі дзякуючы даследаванням з выкарыстаннем электронных прыстасаванняў дазваляе сфармуляваць удакладненую канцэпцыю рытмаўтваральных фактараў мовы на базе склада ці такта і сінтагмы, якія арганізоўваюцца інтанацыяй у суцэльнасць, акцэнтная сіла якой узыходная і зыходная ў фразе.

Да прасодыі мовы адносіцца таксама тэмп маўлення. Ва ўсходнеславянскай моўнай групе ён размеркаваны наступным чынам: у рускай і ўкраінскай прасодыі — патактавае лічэнне, у беларускай — тэндэнцыя да лічэння паскладовага. Паскладовым характарам беларускага маўлення тлумачыцца з'яўленне ў рознага тыпу шматскладовых словах пабочнага націску, эксперыментальна ўстаноўленага беларускімі вучонымі.

Гістарычна паняцце прасодыі складвалася на стыку лінгвістыкі і вершазнаўства. Прасодыя ўваходзіла ў антычную граматыку як вучэнне пра націск (першапачаткова — музычны), пра даўжыню і кароткасць складоў, правілы іх чаргавання ў вершаванай сістэме. Раздзел «Прасодыя» прысутнічаў у старабеларускіх граматыках: у М. Сматрыцкага (1619) змяшчае звесткі пра вершаваныя памеры, у І. І. Ужэвіча (1643) — вучэнне пра віды націскаў і абазначэнні іх на пісьме.

Тэорыя актуальнага члянення сказа (В. Матэзіус і іншыя) разглядае акцэнтную сістэму фразы як складана-іерархічную структуру, у якой фразавым або лагічным націскам прадвызначаюцца ўсе астатнія акцэнтныя ўзроўні (націск сінтагмы, слова). Значным дасягненнем навукі пра прасодыю з'явілася ўстанаўленне моцнанаціскных і слабанаціскных часцін мовы. Да апошніх адносіцца бадай не меншая, чым да моцнанаціскных, частка лексікі (службовыя словы, прыметнік, прыслоўе, дзеяслоўныя звязкі, шматлікі разрад займеннікаў).

Даныя пра рознанаціскны характар слоў у сказе дапамаглі зразумець асноўныя цяжкасці версіфікацыі, актывізавалі даследаванні па вершаскладанні, у прыватнасці экспрэсіўнага актуальнага члянення з двайной і трайной інверсіяй, прызначанай выраўняць слабанаціскныя словы да ўзроўню моцнанаціскных і атрымаць вершаваны гукарад.

Прасодыя мовы і, у прыватнасці, такі яе вызначальны фактар, як акцэнтная сістэма, валодаюць значнай нацыянальнай спецыфікай. На прасадычную характарыстыку моў і ў залежнасці ад яе на нацыянальныя сістэмы вершаскладання вялікі ўплыў аказвае фіксаванасць або свабода націску ў слове. Чэшская, венгерская, фінская, эстонская, латышская мовы маюць націск на першым складзе, польская — на перадапошнім, французская — на апошнім. Для ўсходнеславянскіх моў характэрны свабодны націск.

Звычайна самы моцны ў сказе фразавы націск. Пры пастаянным месцы ў канцы апавядальнага сказа на спадзе фразавай інтанацыі ён рэалізуе сваю сілу пераважна праз даўжыню.

і яго ўспрыманне як самага моцнага — цалкам вынік перцэпцыйнай ілюзіі.

Дамінаванне той ці іншай націскной характарыстыкі ў сістэме нацыянальнай мовы вызначае яе прасадычную тыпалогію (у беларускай мове націск выдзяляецца падоўжанасцю, гучнасцю і тэмбрам, у рускай — вышынёй, гучнасцю і часткова даўжынёй).

Тэорыя моўнага рытму паглыбіла ўяўленне пра рытм мастацкі, выявіла вобразныя прырашчэнні натуральных моўных мікрарытмаў у мастацкай прозе і вершы.

*Літ.:* Гайдучык С. М. Прасодыя і інтанацыя // Бел. лінгвістыка. Мн., 1972. Вып. 2; Якушаў Э. Р. Перыяд асноўнага тону — натуральная адзінка вымярэння працягласці гукаў мовы // Тамсама. 1974. Вып. 5; Выгонная Л. Ц. Інтанацыя. Націск. Арфаэпія. Мн., 1991; Фанетыка беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1989; Грынчык М. М. Шляхі беларускага вершаскладання. Мн., 1973; Ралько І. Д. Верш і мова: (Праблемы тэорыі і гісторыі бел. верша). Мн., 1986; Яскевич А. С. Ритмическая организация художественного текста. Мн., 1991.

*Л. Ц. Выгонная, Э. Р. Якушаў, А. С. Яскевіч.*

## ПРОСТЫ СКАЗ

Просты сказ — монапрэдыкатыўная сінтаксічная адзінка, якая прызначана для паведамлення і мае адпаведную фармальную (граматычную), семантычную і камунікатыўную арганізацыю. Так, просты сказ *Госці прыехалі* складаецца з адной прэдыкатыўнай асновы, створанай дзейнікам і выказнікам. Гэты сказ мае звычайную фармальную арганізацыю: ён пабудаваны шляхам аб'яднання двух абавязковых для сказа ўзаемазалежных кампанентаў (назоўнага склону назоўніка і спрагальнай формы дзеяслова), кожны з якіх валодае патэнцыяльнай здольнасцю да разгортвання (параўнаем: *Нашы госці прыехалі сёння).* Фармальная арганізацыя простага сказа ў пэўнай меры вызначае яго значэнне, тып інфарматыўнага зместу — яго семантычную структуру.

У прыведзеных сказах, нягледзячы на розны аб'ём інфармацыі, змешчана адно і тое ж абагульненае значэнне: таму, хто дзейнічае, прыпісваецца актыўнае дзеянне. У стварэнні такога значэння ўдзельнічае фармальная арганізацыя сказа: аб'яднанне ў яго складзе менавіта назоўнага склону назоўніка са спрагальнай формай дзеяслова. Гэта значэнне падтрымліваецца і лексічным напаўненнем: назоўнік абазначае асобу, дзеяслоў — дзеянне гэтай асобы. Для значэння неабыякавая таксама і камунікатыўная арганізацыя сказа (гл. **Актуальнае чляненне сказа**). Яна не залежыць ад яго фармальнай арганізацыі, а вызначаецца моўным кантэкстам і камунікатыўным заданнем, што ўзнікае ў гэтым кантэксце. Таму адзін і той сказ у сітуацыях з рознымі камунікатыўнымі заданнямі звычайна ўтварае некалькі камунікатыўных адзінак — паведамленняў, якія адрозніваюцца актуальнай інфармацыяй, што знаходзіць сваё выражэнне ў парадку слоў і месцы лагічнага націску, параўнаем: *Госці* ***прыехалі.— Прыехалі*** *госці.—* ***Госці*** *прыехалі.— Прыехалі* ***госці.***

Адпаведна з іх фармальнай, семантычнай і камунікатыўнай арганізацыяй простыя сказы маюць шмат разнавіднасцей. Так, паводле фармальнай арганізацыі простыя сказы могуць быць члянімыя і нечлянімыя. Члянімымі з'яўляюцца сказы, якія ўтвораны з розных членаў сказа. Напрыклад, сказ *Родная зямля цяплом дыхнула* (А. Бялевіч) арганізаваны з дзейніка *(зямля)*, выказніка *(дыхнула)*, азначэння *(родная)* і дапаўнення *(цяплом)*. Структурную аснову такога сказа складаюць галоўныя члены — дзейнік і выказнік. Гэтыя члены (адны або з залежнымі ад іх даданымі членамі) утвараюць састаў дзейніка і састаў выказніка. У залежнасці ад колькасці граматычных саставаў сярод члянімых сказаў вылучаюцца двухсастаўныя і аднасастаўныя сказы (гл. **Аднасастаўныя і двухсастаўныя сказы**). Ад члянімых (аднасастаўных і двухсастаўных) сказаў істотна адрозніваюцца нечлянімыя сказы, у складзе якіх няма ні галоўных, ні даданых членаў. Да нечлянімых адносяцца так званыя словы-сказы, арганізаваныя з мадальных слоў, часціц, выклічнікаў і гукапераймальных слоў, пры дапамозе якіх пацвярджаецца або даецца дадатны адказ на паведамленне: *Так. Самі ведаем, што ружы нам не адразу ўсыплюць шлях* (П. Прыходзька); *Ты што, адзін дома? — Разумееццa* (І. Мележ); падаецца адмоўны адказ на паведамленне: *Вы з пасёлка будзеце? — Не* (М. Ракітны); *Няпраўда. Там жа нехта ёсць* (П. Пестрак); афармляецца пытанне наконт таго, пра што паведамляецца: *Давайце спаборнічаць. А?* (Т. Хадкевіч); выражаюцца пабуджэнні ажыццявіць што-небудзь, розныя пажаданні: *Ша! Хмарка, хмарка дарагая паўзе па небе з-за лясоў* (Я. Колас); *Добра, што не забыўся. Дзякуй!* (І. Мележ); перадаюцца эмацыянальная ацэнка або экспрэсіўныя адносіны да паведамлення: *Хо! Чую сапраўдны голас рыбака* (І. Гурскі); *О-о-о! Як прыемна ў цяньку старых прысад* (Ц. Гартны). Усе нечлянімыя сказы самастойна не функцыяніруюць, а заўсёды ўключаюцца ў шырокі кантэкст, дзе яны спадарожнічаюць члянімаму сказу і ў дачыненні да яго атрымліваюць канкрэтнае значэнне. У нечлянімых сказах не можа быць граматычных саставаў, а таму яны лічацца бессастаўнымі.

Структурную аснову простага сказа, якая створана галоўнымі членамі, часта развіваюць розныя даданыя члены. У залежнасці ад наяўнасці даданых членаў у сказе вылучаюцца неразвітыя і развітыя сказы. Неразвітыя сказы арганізуюцца толькі з галоўных членаў (аднаго ці двух): *Світае. Кружыцца снег. Шумяць дрэвы* (З. Бядуля). У развітых сказах галоўныя члены заўсёды паясняюцца даданымі: *У шырокім лузе над крыніцай шалясціць духмяная трава* (А. Русак). Наяўнасць або адсутнасць даданых членаў у сказе абумоўлена характарам паведамлення і патэнцыяльнай здольнасцю галоўных членаў да свайго ўдакладнення.

У канкрэтных умовах маўлення просты сказ можа ўжывацца з поўным наборам неабходных для яго членаў ці з пропускам некаторых з іх. Адпаведна з гэтым сказы бываюць поўныя і няпоўныя. Поўнымі з'яўляюцца сказы, у складзе якіх ёсць усе неабходныя для іх структуры члены: *На лузе рыжыя чмялі гаспадарылі між кветак* (А. Вялюгін). Няпоўнымі лічацца сказы, у складзе якіх адсутнічаюць адзін ці больш членаў. Гэта залежыць ад кантэксту, сітуацыі і мэты паведамлення. На гэтай падставе сярод няпоўных вылучаюцца кантэкстуальныя сказы, у якіх асобныя члены апушчаны, бо ўжываюцца ў папярэднім кантэксце: *Сонца гарэзліва лезе ў акно. Не дае спаць* (З. Бядуля); сітуацыйныя сказы, у якіх асобныя члены апушчаны, бо лёгка падказваюцца абставінамі агульнай сітуацыі: *«На вакзал!» — сказаў ён шафёру, садзячыся ў таксі* (У. Краўчанка); эліптычныя сказы, у якіх адсутны дзеяслоў-выказнік зразумелы са структуры саміх сказаў: *У цёмным небе карагоды сінявокіх зорак* (М. Багдановіч). Няпоўныя сказы суадносяцца з адпаведнымі поўнымі сказамі, бо не маюць уласнай структурнай схемы і заўсёды абапіраюцца на структурную схему поўнага сказа ці на пазамоўную сітуацыю.

Кожнаму простаму сказу ўласціва мадальнасць, якой вызначаюцца адносіны яго зместу да рэчаіснасці (гл. **Мадальнасць**). Паводле мадальнасці вылучаюцца сцвярджальныя і адмоўныя сказы. У сцвярджальных сказах адзначаецца рэальная наяўнасць або магчымасць розных з'яў і падзей: *Шумяць у полі каласы* (П. Прыходзька); *Спаць можна на сене ў прыбудоўцы* (М. Зарэцкі). У адмоўных сказах гэтая наяўнасць адмаўляецца. Для афармлення адмаўлення ўжываюцца часціцы *не, ні* і безасабова-прэдыкатыўнае слова *няма: Не спяваюць у полі дзяўчаты* (М. Машара); *На небе ні хмурынкі!* (Я. Колас); *Няма перашкод для вялікіх ідэй* (М. Хведаровіч). У залежнасці ад характару адмаўлення сказы падзяляюцца на агульнаадмоўныя і частковаадмоўныя. У агульнаадмоўных выражаецца поўнае адмаўленне

з'яў і падзей, што знаходзіць сваё выражэнне ў наяўнасці адмоўнай часціцы *не* пры выказніку двухсастаўнага сказа ці суадносным з ім галоўным члене аднасастаўнага сказа або ў выкарыстанні безасабова-прэдыкатыўнага слова *няма* ў пазіцыі такога члена: *Не цячэ крынічанька ў лузе пад вярбой* (А. Русак); *У возеры няма рыбы* («Звязда»). У частковаадмоўных сказах адмаўляюцца толькі асобныя ўласцівасці агульнай з'явы ці падзеі, якая сцвярджаецца (а не адмаўляецца) у сказе. Частковае адмаўленне афармляецца адмоўнай часціцай *не* пры розных членах сказа, акрамя выказніка: *Расцвіла не вярба пры дарозе* (П. Трус); *Не кветак шукалі ў полі* (М. Чарот). Часціца *не* звычайна не афармляе адмаўлення, калі яна паўтараецца (за выключэннем аднародных членаў): *Дзед не мог не сказаць пару слоў* (П. Галавач) або набывае адценні меркавання: *Ці не пайсці нам у грыбы?* (К. Чорны); абагульнення: *Каму не дораг любы сад у пышнай квецені вясною?* (М. Засім); адабрэння: *Ну чым гэта не праца!* (Т. Хадкевіч); неабходнасці: *Дык чаму ж нам не радавацца!* (К. Крапіва) і інш. У сказах без адмоўнай часціцы адмаўленне можа выражацца парадкам слоў і інтанацыяй: *Так я і пайшоў!* (у сэнсе «не пайду»); *Дзе ж нам спрачацца з вамі!* (у сэнсе «нельга спрачацца») і г. д.

З'яўляючыся найважнейшымі адзінкамі паведамлення, простыя сказы маюць рознае камунікатыўнае прызначэнне. Паводле гэтага вылучаюць апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы. У апавядальных сказах падаецца інфармацыя пра розныя з'явы і падзеі як пэўныя факты рэчаіснасці. Могуць быць уласна апавядальнымі, калі ў іх змяшчаюцца звычайныя паведамленні пра з'явы і падзеі: *Журчыць між лоз крынічная вада* (П. Панчанка); апісальна-апавядальнымі, калі ў іх не толькі паведамляецца пра з'явы і падзеі, але і даецца іх характарыстыка: *Добра ў лесе і крыху страшна. Прыгнятае незвычайная цішыня. Яна нібы павісла ў паветры, не зварухнецца...* (М. Лынькоў). Апавядальныя сказы вызначаюцца спецыфічнай апавядальнай інтанацыяй, у іх пераважна прамы парадак слоў, пашыраны дзеясловы абвеснага (першай і трэцяй асобы) і ўмоўнага ладу, адсутнічаюць словы з яркай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай. У пытальных сказах змешчана пытанне, на якое чакаецца або не чакаецца адказ. Адпаведна з гэтым, вылучаюцца ўласнапытальныя сказы, у якіх пытанне патрабуе абавязковага адказу: *Ці спяваюць птушкі ў лузе за ракой?* (З. Бядуля); пытальна-рытарычныя сказы, у якіх пытанне не патрабуе абавязковага адказу, бо ён вядомы са зместу самога сказа: *Што ж мне можа быць больш за Радзіму любімую міла?* (П. Панчанка); пытальна-пабуджальныя сказы, у якіх у форме пытання выражаецца просьба, пажаданне ці прапанова выканаць дзеянне: *Дазволіце мне сказаць?* (Я. Колас); пытальна-эмацыянальныя сказы, у якіх пытаннем афармляецца якое-небудзь пачуццё (здзіўленне, сумненне і інш.): *Няўжо вам горад не падабаецца?* (Т. Хадкевіч). Для выражэння пытання служаць спецыфічная пытальная інтанацыя: *Вы бачылі луг у срабрыстай расе?* (М. Гамолка); пытальныя часціцы: *Ці не казку лес складае?* (Я. Купала); займеннікі: *Што нясе нам вясна маладая?* (Я. Колас); прыслоўі: *Навошта сэрца я параніў чарнявым поглядам вачэй?* (П. Трус); мадальныя словы: *Можа брамкі позні рып патрывожыў слых?* (А. Куляшоў). Без пытальных сказаў немагчыма арганізацыя дыялагічных адзінстваў. Да пабуджальных адносяцца сказы, у якіх выражаецца волевыяўленне таго, хто гаворыць: *Ніколі не спыняйцеся на паўдарозе* (Я. Колас). Пабуджэнне можа рэалізавацца ў форме загаду, закліку, патрабавання ці просьбы, парады, прапановы. У залежнасці ад характару пабуджэння вылучаюцца ўласна-пабуджальныя сказы, у якіх пабуджэнне накіравана да канкрэтнага адрасата: *Не шуміце, вербы, ля майго акна* (П. Броўка); пажадальныя сказы, у якіх змешчана пажаданне, што не мае канкрэтнага адрасата: *Паслухаць бы драздоў свістанне ў час ружовага світання* (П. Панчанка). Пабуджальныя сказы вызначаюцца спецыфічнай пабуджальнай інтанацыяй. Важнымі сродкамі, якія памагаюць афармляць пабуджэнне ў сказе, з'яўляюцца дзеясловы загаднага ладу: *Слаўся палётам крылатым, наша жыццё маладое!* (А. Русак); інфінітыў: *Не быць вайне!* (М. Засім); прыслоўі: *Смялей наперад!* (К. Чорны); назоўнікі: *Пад'ём!* (М. Лынькоў); часціцы: *На хлеба кавалак* (З. Бядуля); выклічнікі: *Айда за мной!* (Я. Брыль).

Простыя сказы маюць розную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку. На гэтай падставе яны падзяляюцца на няклічныя і клічныя. У няклічных сказаў няма яркай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі, бо ім не ўласціва клічная інтанацыя і эмацыянальныя выклічнікі і часціцы. Гэтыя сказы могуць быць *апавядальнымі*, пытальнымі і пабуджальнымі: *Высока ў небе кружыліся буслы* (Х. Шынклер); *Вы бачылі поле ў час жніва?* (С. Баранавых); *Напішы мне, калі ласка, пісямко дахаты* (Я. Колас). У клічных сказах выражаюцца розныя пачуцці таго, хто гаворыць, адносна пэўных з'яў і падзей. Яны адрозніваюцца ад няклічных сказаў яркай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай, якая ствараецца клічнай інтанацыяй: *Добра летам каля рэчкі!* (Я. Колас). Апрача інтанацыі, важную ролю ў выражэнні розных пачуццяў адыгрываюць эмацыянальныя выклічнікі: *Эх, дзянёк харошы!* (Я. Купала); эмацыянальна-экспрэсіўныя часціцы: *Як прыемна пахнуць кветкі!* (Я. Колас); займеннікі і прыслоўі ў функцыі ўзмацняльных часціц: *Якая рознагалосая птушыная гамана поўніць лясныя нетры!* (Т. Хадкевіч); *Колькі пережыта за адзін толькі дзень!* (І. Мележ); спалучэнні выклічнікаў з часціцамі: *Ох, як многа розных песень чуецца ў дарогах!* (Я. Колас).

Простыя сказы актыўна выкарыстоўваюцца ва ўсіх стылях сучаснай беларускай мовы, бо з'яўляюцца адной з асноўных сінтаксічных адзінак, пры дапамозе якіх адбываецца абмен думкамі паміж людзьмі. Дзякуючы рознай форме і значэнню, простыя сказы валодаюць багатымі моўнавыяўленчымі магчымасцямі. Яны шырока ўжываюцца ў якасці адпаведных стылістычных фігур (анакалуф, аксюмаран, інверсія, умаўчанне, эліпсіс і інш.), у іх форме існуюць шматлікія прыказкі і прымаўкі, з іх арганізуюцца і звышсказавыя адзінствы.

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986; Бурак Л. І. Сучасная беларуская мова: Сінтаксіс. Пунктуацыя. Мн., 1987.
*Л. І. Бурак.*

## ПРОТЧАНКА ВАСІЛЬ УЛЬЯНАВІЧ



Беларускі мовазнавец В. У. Протчанка нарадзіўся 7 красавіка 1930 г. ў в. Зарэчча Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. У 1958 г. скончыў Мазырскі педінстытут. Доктар педагагічных навук (1990), прафесар (1993). У 1949—50 гг. настаўнічаў, у 1962—64 гг. намеснік дэкана факультэта для замежных грамадзян БДУ; у 1964—68 гг. дэкан філалагічнага факультэта Мазырскага педінстытута; у 1968—71 гг. загадчык кабінета беларускай

мовы Мінскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў; у 1971—90 гг. загадчык аддзела методыкі беларускай мовы, з 1990 г.— лабараторыі праблем выкладання моў Беларускага навукова-даследчага інстытута адукацыі (з 1992 г.— аддзялення дыдактычных праблем нацыянальнай школы Нацыянальнага інстытута адукацыі Рэспублікі Беларусь).

Прадмет яго навуковых пошукаў: удасканальванне зместу школьнага курса роднай мовы, удакладненне мэт і задач навучання, карэкціроўка праграм, распрацоўка і ўкараненне ў педагагічную практыку найбольш эфектыўных метадаў і прыёмаў навучання. Ён аўтар манаграфій «Навучальныя пераказы ў I—III класах школ з беларускай мовай выкладання» (1980, з Я. М. Лаўрэлем), «Вывучэнне сінтаксісу ў школе: Словазлучэнне. Просты сказ» (1984), «Шматаспектны аналіз пры вывучэнні сінтаксісу беларускай мовы» (1987), «Вывучэнне сінтаксісу ў школе: Складаны сказ» (1989) і інш.

Даследуючы праблемы школьнага сінтаксісу, В. У. Протчанка падкрэслівае, што актывізацыі мыслення і маўлення дзяцей найбольш спрыяюць менавіта сінтаксічныя ўменні і навыкі, якія выпрацоўваюцца пры вывучэнні ўсіх раздзелаў і тэм курса роднай мовы. Ён рэкамендуе асэнсоўваць лексіку, фанетыку, марфалогію і сінтаксіс на матэрыяле звязнай мовы. Гэта развівае практычныя навыкі чытання, асэнсавання і аналізу розных па стылю і жанрах тэкстаў. Ён лічыць эфектыўнай методыку, што стымулюе маўленчую дзейнасць, выкарыстоўвае граматычныя, стылістычныя і этычныя нормы роднай мовы. У сістэму навучання беларускай мове В. У. Протчанка ўключае шматаспектны аналіз моўных з'яў (па сукупнасці прыкмет — функцыі, сэнсу, інтанавання, будовы, значэння) — у процівагу традыцыйнаму фармальнаму разбору, пры якім вучні абмяжоўваюцца выкананнем класіфікацыйных практыкаванняў і апісаннем лінгвістычных адзінак аднаго якога-небудзь узроўню ізалявана ад кантэксту звязнай мовы. Метадычныя рэкамендацыі па арганізацыі навучальнага працэсу ў гэтым плане выкладзены ў яго артыкулах «Зыходзячы з логікі мовы» (Нар. асвета. 1971, № 5), «Узаемасувязь аналізу і сінтэзу пры вывучэнні складаназалежнага сказа» (тамсама. 1975. № 10), «Некаторыя пытанні вывучэння аднародных членаў сказа» (тамсама. 1975. № 12), «Аб адным метадзе аналізу словазлучэнняў і сказаў» (тамсама. 1980. № 10, 11), «Сінтаксічны аналіз простага сказа» (тамсама. 1981. № 1), «Сінтаксічны аналіз складанага сказа» (тамсама, 1982. № 1), «Шматаспектны аналіз і сінтэз на матэрыяле тэксту» (тамсама. 1984. № 1) і інш. Фарміраванне інтанацыйных і стылістычных навыкаў, а таксама навыкаў звязнай мовы (вуснай і пісьмовай) — сярод галоўных у метадычных рэкамендацыях В. У. Протчанкі «Вывучэнне сінтаксісу простага сказа» (1973), «Вывучэнне словазлучэння ў школьным курсе сінтаксісу» (1978), «Вывучэнне сінтаксісу словазлучэння і двухсастаўнага сказа ў V класе сярэдняй школы» (1991).

*Тв.:* Аб практычнай накіраванасці школьнага курса роднай мовы // Выкладанне беларускай мовы і літаратуры. Мн., 1983; Школа, адукацыя і нацыянальная культура // Пачатковая школа, 1993. № 1; Новая праграма па беларускай мове і навучальны працэс // Роднае слова. 1994. № 1. *Я. М. Лаўрэль.*



**Выданні беларускіх прыказак і прымавак.**

## ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

Прыказка — гэта кароткі, устойлівы народны выраз, рытмічна і граматычна арганізаваны, які ў завершанай, сціслай і найчасцей вобразна-паэтычнай форме абагульняе тыповыя з'явы жыцця, характарызуе і ацэньвае іх, павучае і дае практычныя парады: *Свайго смецця на чужы сметнік не вынось; Не плюй у вадзіцу: згадзіцца напіцца.* У маўленні прыказкі функцыяніруюць як цытаты, як гатовыя формулы.

Прымаўка — гэта таксама ўстойлівае ў моўным ужыванні выслоўе, якое вобразна, эмацыянальна характарызуе тую або іншую падзею ці асобу, але толькі ў дадзеным канкрэтным выпадку, без абагульненняў і высноў: *Чужымі рукамі жар заграбаць; Нехапанка на Іванка; Вывалакі няма.*

Розніца паміж прыказкай і прымаўкай не вельмі значная, часам няўлоўная. Большасць даследчыкаў бачаць яе ў тым, што прыказка выражае завершаную думку, у маўленні з'яўляецца закончаным меркаваннем, якое змяшчае пэўнае абагульненне жыццёвага вопыту, а прымаўка атрымлівае канчатковае афармленне і канкрэтны змест толькі ў кантэксце, гэта значыць яна заўсёды толькі частка меркавання, «незамкнутая структура». Таму прымаўкі найбольш цесна звязаны з такімі ўстойлівымі выразамі, як фразеалагізмы. К. Крапіва, размяжоўваючы прыказку і прымаўку, параўноўвае выслоўі: *Заяць любіць узяць* і *Наш заяць любіць узяць.* «У першым выпадку абодвух прыкладаў,— заключае ён,— мы маем, на мой погляд, прыказку, а ў другім — прымаўку... прыказка выводзіць правіла, якое пашыраецца на ўсе аналагічныя з'явы, прымаўка абмяжоўваецца толькі гэтаю канкрэтнаю з'яваю» (Крапіва К. Беларускія прыказкі. Зб. тв. Т. 4. Мн., 1963. С. 226).

Пераважная большасць слоў, якія ўжываюцца ў прыказках, увайшла ў слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Выхад за межы норм літаратурнай мовы (дыялектызмы, архаізмы, варварызмы) з'яўляецца нетыповым для мовы прыказак і не закранае асноў спецыфікі іх жанру, хоць цалкам стыль прыказак з'яўляецца гутарковым і дапускае прастамоўныя элементы. Выкарыстанне самых звычайных, агульнаўжывальных слоў стварае прастату, натуральнасць, дапамагае маляваць жывыя карціны і выражаць глыбокія і шырокія пачуцці.

Прыказкі — вельмі старажытны фальклорны жанр. Аб гэтым сведчыць, напрыклад, наяўнасць у іх лексічным складзе некаторых уласных імён, якія звязаны з язычніцкімі вераваннямі: *З грашмі і Копшы дагодзіш; Паляндра ўчэмярылася нейкая* (паводле І. І. Насовіча, *Копша* — магільны дух, капальнік магіл, *Паляндра* — багіня смерці або няшчасця). Адным з фармальных паказчыкаў, якія дазваляюць лічыць прыказку гістарычнай, служаць уласныя імёны пэўнага тыпу — назвы дзяржаў, гарадоў і іншых населеных пунктаў, рэк, імёны гістарычных дзеячаў: *Грэўся француз у Маскве, а замярзаў на Бярозе; За Саса было досыць хлеба і мяса, а настаў Панятоўскі, стаў хлеб не такоўскі; Розуму на кірмашы не купіш і ў Слаўкаўшчыне не знойдзеш; Рабі пільна, то і дома будзе Вільня* і інш. Аб старажытнасці прыказак сведчыць і тое, што ў некаторых з іх ужываюцца і імёны малавядомыя або ўвогуле цяпер неўжывальныя: *Выйграў, як Шлёма на арэндзе; Ачнуўся Малах, аж скула ў галавах.*

Лексіка вялікай групы так званых каляндарных прыказак сэнсава звязана з рэлігійнымі святамі, народнымі прыкметамі, працоўным календаром. Уласныя імёны ў іх — гэта імёны святых праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, якія ўжываліся не ў прамым, а ў пераносным значэнні. Яны абазначалі дні, поры года па назве святога, бо гэта было найбольш зручнай падставай для запамінання дат: *Два на*

*гаду Юр'і, ды абодва дурні: увосень халодны, а ўвесну галодны; Пакроў пакрый — зямлю лістком, ваду лядком.* У гэтых прыказках даецца апісанне асаблівасцей пор года, і тэонімы ў іх робяцца сімваламі характэрных з'яў прыроды, а таксама выкарыстоўваюцца як сродак метаніміі *(На святы Сцяпан кожны парубак сабе пан)*; метафары *(Юрый мосціць, а Мікола гвоздзіць)*; эпітэта *(Ілля нарабій гніл-ля)*; кантрасту *(Юрый пасе кароў, а Мікола коней)* і ствараюць вобразнасць.

Цікавым пластом лексікі беларускіх прыказак з'яўляюцца прыказкавыя неалагізмы — словы, якія ўжываюцца толькі ў прыказках, утварыліся разам з прыказкамі і для прыказак *(Як не маеш пабразгачоў, дык няма і паслугачоў, а як маеш пабразгачы, тады будуць і паслугачы; На адно кусайла па тры сярбайлы; Няма кахання без прытулення* і інш.). Гэтыя словы выконваюць разнастайныя стылістычныя функцыі: фармальна-структурную, эмацыянальна-экспрэсіўную, вызначаюць народна-гутарковы каларыт мовы прыказак, садзейнічаюць раскрыццю мастацкай задумы прыказкі.

Большай часцы прыказак уласціва вобразнасць. Гэта дасягаецца асаблівасцямі ўжывання, напрыклад, некаторых назоўнікаў, якія могуць выконваць ілюстрацыйную ці сімвалічную функцыю, гэта значыць назоўнікі, якія абазначаюць канкрэтны прадмет, у прыказках могуць служыць для ілюстрацыі абстрактнай думкі, нейкага агульнага палажэння *(Сокалу ўвысь ляцець, а вераб'ю пад страхой чырыкаць; Найшла каса на камень)*.

Характэрнай адзнакай мовы беларускіх прыказак з'яўляецца даволі шырокае ўжыванне ў іх назоўнікаў з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі. Пры гэтым абсалютная большасць слоў з памяншальнымі ці павелічальнымі суфіксамі выконваюць мастацка-выяўленчую функцыю: функцыю выражэння суб'ектыўнай ацэнкі *(Сірочую галоўку дождж памые; Не той перамагае, хто ў бядзе са сваёй зямелькі ўцякае)*, іроніі, сарказму *(Бродкі як сярпочкі, а ніўка — няжатая стаіць; Да работанькі няма ахвотанькі; Кашляй, паночак: вам можна)*.

У беларускіх прыказках сустракаюцца дыялектызмы: *За добрым мужыком і чулінда жана, а за дурным — і папоўна раба; Баглайка ніколі не будзе хазяйка* (паводле І. І. Насовіча, *чулінда* — неахайная, нязграбная, пудзіла; *баглайка* — жанчына шалапутная і лянівая, якая любіць доўга спаць); гістарызмы *(Асаднікі — прадажнікі; Без гарапашнікаў-мужыкоў не было б ні хлеба, ні васьмакоў)*; архаізмы *(Не стрый, дык дзядзька; Дзіва, каб тумар з голаду памёр)*; прафесіяналізмы *(Калі ёсць аснова, то будзе і ўток; Бёрнік сітніку не раўня)*; запазычанні *(Жывот з зэгарам не згаджаецца; Майсцер да чужых тайсцер)*; варварызмы *(Ох-ох-ох! Semper гарох, чачо каша, miseria наша; За акцыдзенцыі бывае часам ліска без хваста)*; дзіцячая лексіка *(Бачыць вока, дзе пячэцца кока; Няма таткі, няма і папкі)*.

Аднак, нягледзячы на тое, што гэтыя пласты лексікі нясуць пэўную стылістычную нагрузку ў тэксце, яны не закранаюць асноў спецыфікі прыказкавага жанру, бо ў мове прыказак выяўляюцца найбольш дасканалыя і для ўсіх зразумелыя формы, г. зн. тое, што з'яўляецца ў лексіцы і граматыцы агульнанародным, што ўяўляе сабой нацыянальную своеасаблівасць мовы, агульнае для рада эпох і для ўсіх носьбітаў мовы.

Імкненне да яркай вобразнасці прымушае пазбягаць моўных трафарэтаў, увасабляць думкі ў новую, выразную моўную абалонку, нярэдка ўжываючы словы і словазлучэнні ў незвычайным значэнні. Менавіта гэтым можна тлумачыць даволі шырокае ўжыванне фразеалагізмаў, якія ўваходзяць у прыказку як яе «будаўнічы» матэрыял. Гэтыя фразеалагізмы могуць уваходзіць у склад прыказак *(Радня да пайдня, а як сонца зойдзе — сам чорт не знойдзе; Як была сем год удавою, то не чула ножак пад сабою)* ці існаваць самастойна *(Сваха пераезная; Дзіравыя рукі)*. Фразеалагічныя адзінкі ўносяць у мову эмацыянальнасць і экспрэсію жывога народнага слова з дадатковымі значэннямі жарту, іроніі, насмешкі, пагарды, папроку, лаянкі і г. д. і робяць маўленне лаканічным і энергічным, а само выказванне найбольш прыгодным для ўспрымання і запамінання.

Прыказкі адрозніваюцца дасканаласцю мастацкай формы. У іх шырока выкарыстоўваюцца як тропы (метафара, метанімія, сінекдаха, гіпербала, літота, іронія, эпітэт, алегорыя), так і фігуры (градацыя, паралелізм, эліпс, анафара), якія разам з рыфмоўкай і рытмізацыяй дазваляюць пераўтварыць прыказку ў маленькі мастацкі твор.

Найбольш даследаванымі з'яўляюцца лексіка беларускіх прыказак, функцыі некаторых граматычных катэгорый (назоўніка, дзеяслова), а таксама сінтаксічныя канструкцыі прыказак, вызначана спецыфіка іх сінтаксісу ў адносінах да сінтаксісу сучаснай літаратурнай мовы.

Не вызначаным застаецца пытанне аб уключэнні прыказак у фразеалагічную сістэму беларускай мовы, праблема аднясення прыказак да адзінак мовы ці маўлення. Канчаткова не вырашана пытанне і аб знакавай прыродзе прыказак.

*Літ.:* Аксамітаў А. С. Лексіка беларускіх прыказак XIX ст. ў сувязі з агульнай праблемай фразеалогіі. Мн., 1958; Янкоўскі М. А. Паэтыка беларускіх прыказак. Мн., 1971; Параскевіч Г. В. Назоўнік у беларускіх прыказках. Мн., 1984.

*Г. В. Параскевіч.*

## ПРЫКЛАДНОЕ МОВАЗНАЎСТВА

Прыкладное мовазнаўства — галіна лінгвістычнай навукі, якая займаецца ўдасканаленнем моўных кантактаў у грамадстве шляхам распрацоўкі метадаў, прыёмаў і спосабаў вырашэння разнастайных практычных задач, звязаных з выкарыстаннем мовы і лінгвістычных ведаў у практычнай дзейнасці людзей па-за межамі лінгвістыкі.

Тэрмін «прыкладное мовазнаўства», ці «прыкладная лінгвістыка», з'явіўся ў канцы 1920-х гадоў. Прычым напачатку слова *прыкладное* ў тэрміналагічным словазлучэнні *прыкладное мовазнаўства* мела значэнне 'практычна значымае, прыкладзенае да справы, патрэбнае, карыснае' мовазнаўства. Такое адносна позняе з'яўленне тэрміна зусім не азначае, што непасрэднае вырашэнне разнастайных задач грамадскай маўленчай практыкі распачалося толькі ў нашым стагоддзі. Мовазнаўства як навука заўсёды разглядала практычныя задачы, звязаныя са штодзённым выкарыстаннем мовы. Менавіта няспынны пошук адказаў на моўныя запытанні грамадства — галоўны рухавік развіцця лінгвістычнай тэорыі.

Чым жа ў такім выпадку адрозніваецца прыкладное мовазнаўства ад іншых лінгвістычных дысцыплін і кірункаў? Параўнаем асноўныя тыпы моўных ведаў. Так, натуральнае (у працэсе паўсядзённых моўных зносін) вывучэнне носьбітам мовы разнастайных моўных фактаў і з'яў (гукаў, літар, складоў, марфем, форм і значэнняў слоў, шматлікіх словазлучэнняў і сінтаксічных канструкцый, стылістычных сродкаў і інш.) забяспечвае яму магчымасць размаўляць і разумець, чытаць і пісаць — практычна ведаць мову. У сваю чаргу, пры фарміраванні навуковага разумення мовы лінгвістыка не абмяжоўваецца натуральным вывучэннем рознаўзроўневых фактаў мовы, але аналізуе пры дапамозе спецыяльных лінгвістычных метадаў вялікія групы моўных з'яў і выяўляе на падставе такога аналізу адпаведныя моўныя законы і заканамернасці — аснову любой лінгвістычнай тэорыі. Менавіта таму мовазнаўцам лічыцца спецыяліст у галіне тэорыі мовы, а чалавека, які проста ведае некалькі моў, называюць паліглотам.

Пры гэтым па адносінах (непасрэдных ці апасродкаваных) да грамадскай моўнай практыкі навуковыя лінгвістычныя веды падзяляюцца на фундаментальныя, нарматыўныя і прыкладныя. Фундаментальнымі называюцца максімальна поўныя і аб'ектыўныя навуковыя веды пра стан мовы ў той або іншы момант яе існавання. Нарматыўныя лінгвістычныя веды за-

снаваны на паняцці нормы (моўнай правільнасці) і памагаюць вызначыць літаратурны статус той або іншай моўнай адзінкі і правілы карыстання ёю. Прыкладныя лінгвістычныя веды садзейнічаюць рэалізацыі літаратурнай нормы ў грамадскай моўнай практыцы і вырашэнню многіх іншых практычных задач. Самае непасрэднае дачыненне да ўдасканалення нашых моўных зносін маюць менавіта прыкладныя лінгвістычныя веды, важныя для суадносін з канкрэтнымі ўмовамі жыцця.

Прыкладное мовазнаўства як асобная галіна лінгвістычных ведаў сфарміравалася ў 1-й палове 20 ст. ў выніку шэрага аб'ектыўных прычын. Па-першае, развіццё лінгвістычнай тэорыі дасягнула такога ўзроўню, калі стала магчымым непасрэднае выкарыстанне асноўных яе палажэнняў для паляпшэння моўнай практыкі. Прытым залежнасць паміж тэарэтычнымі і прыкладнымі лінгвістычнымі даследаваннямі з цягам часу набыла ўзаемны характар. Па-другое, усведамленне грамадствам неабходнасці строгага навуковага вырашэння практычных задач, звязаных з выкарыстаннем мовы, спрыяла ўзмацненню практычнай накіраванасці лінгвістычнай навукі. Так, развіваюцца педагагічная лінгвістыка, звязаная з методыкай выкладання роднай і замежнай моў, і інжынерная лінгвістыка, звязаная з выкарыстаннем інструментаў, прыбораў і машын для вырашэння розных моўных задач. Інжынерная лінгвістыка і лінгвапедагогіка сёння, бадай, самыя распрацаваныя кірункі прыкладнога мовазнаўства. Па-трэцяе, надзвычай шырокі спектр разнастайных практычных праблем, якія вырашала мовазнаўства ў сярэдзіне 20 ст., пашыраў яго кантакты з самымі рознымі навукамі. Менавіта прыкладныя кірункі мовазнаўства сталі асноўным полем узаемадзеяння розных навук. Так, выкарыстанне матэматычных і лагічных (дакладных) метадаў у мовазнаўстве ў значнай ступені было стымулявана задачамі прыкладной лінгвістыкі.

Вылучаюць 2 перыяды ў развіцці прыкладнога мовазнаўства: перыяд непадзельнага існавання прыкладных моўных ведаў разам з моўнымі ведамі іншых тыпаў у межах адзінай лінгвістычнай навукі і перыяд самастойнага вырашэння практычных задач, звязаных з выкарыстаннем мовы, у межах толькі прыкладнога мовазнаўства. Вылучэнне гэтых двух перыядаў нярэдка суправаджаецца падзелам праблем прыкладнога мовазнаўства на традыцыйныя і новыя.

Традыцыйныя праблемы прыкладнога мовазнаўства — гэта складанне слоўнікаў і граматык, паляпшэнне ці стварэнне новых сістэм пісьма, правапісу і пунктуацыі, распрацоўка пытанняў маўленчай культуры, практычнай стылістыкі, перакладу, а таксама выкладанне роднай і няроднай моў у агульных і спецыяльных навучальных установах. Сюды ж адносяцца фарміраванне, сістэматызацыя і уніфікацыя тэрміналагічнай і наменклатурнай лексікі, распрацоўка пытанняў прагмалінгвістыкі, рыторыкі і красамоўства. Прычым найбольш пашыраным прымяненнем лінгвістыкі ў нашы дні лічаць працэс вывучэння моў.

Да новых праблем прыкладнога мовазнаўства адносяцца: машынны пераклад, стварэнне аўтаматызаваных сістэм інфармацыйнага пошуку, у тым ліку машынных тэрміналагічных слоўнікаў і інфармацыйна-пошукавых тэзаўрусаў, лінгвістычная праблематыка тэле- і радыёкамунікацыі, распрацоўка разнастайных інфармацыйных моў і фармалізаваных моў праграмавання, пабудова дыялогавых сістэм тыпу «чалавек — машына», праблема штучнага інтэлекту і многія іншыя.

У апошнія гады прыкладная лінгвістыка для вырашэння сваіх традыцыйных задач (навучання мове, складання слоўнікаў, сістэматызацыі спецыяльнай лексікі і інш.) усё часцей выкарыстоўвае камп'ютэры (менавіта пры іх дапамозе ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі вырашана задача стварэння машыннага слоўніка-канкарданса беларускіх тэкстаў 19 ст.). Таму ў працах асобных даследчыкаў падзел прыкладных лінгвістычных праблем на традыцыйныя і новыя паступова саступае месца больш змястоўным і абгрунтаваным класіфікацыям прыкладных кірункаў мовазнаўства.

Так, на думку Ю. У. Раждзественскага, удасканаленне моўных зносін у грамадстве, якім непасрэдна займаецца прыкладное мовазнаўства, можа быць рэалізавана ў трох асноўных галінах: у лінгвасеміётыцы яно ажыццяўляецца шляхам стварэння новых сістэм пісьма, новых тэрмінаў і наменклатурных назваў, новых тыпаў лінгвістычных апісанняў і г. д.; у лінгвадыдактыцы — шляхам распрацоўкі новых, больш інтэнсіўных методык навучання мове, новых і больш дасканалых падручнікаў, дапаможнікаў і іншых моўных апісанняў дыдактычнага характару; у лінгваінфарматыцы шляхам ручнога і машыннага складання максімальна поўных і аб'ектыўных слоўнікаў, пабудовы аўтаматызаваных інфармацыйна-пошукавых і дыялогавых сістэм, баз лінгвістычных даных, машынных фондаў мовы і г. д.

У канчатковым выніку кожная з дзвюх прыведзеных класіфікацый прыкладных кірункаў мовазнаўства (класіфікацыі гістарычнага і сістэмнага характару) памагае зразумець галоўнае: прыкладное мовазнаўства садзейнічае паляпшэнню жыцця, міжчалавечых зносін, распаўсюджванню ведаў, стварэнню раўнавагі ў адносінах людзей. Цікавасць да вынікаў прыкладных лінгвістычных даследаванняў з кожным годам павялічваецца. На Беларусі прыкладнымі лінгвістычнымі даследаваннямі займаюцца Б. М. Лабанаў, А. В. Зубаў, В. У. Мартынаў і іншыя.

*Літ.:* Звегинцев В. А. Теоретическая и прикладная лингвистика. М., 1968; Новое в зарубежной лингвистике. Вып. 12. Прикладная лингвистика. М., 1983.

*В. К. Шчэрбін.*

## ПРЫМЕТНІК

Прыметнік — знамянальная часціна мовы, якая абазначае прымету прадмета і выражае гэтае значэнне ў формах роду, ліку і склону.

Прымета можа заключацца ў самім слове непасрэдна *(белы, сухі, малады, гладкі, востры, цёплы, цяжкі)*, можа перадавацца праз адносіны аднаго прадмета да другога (*вячэрні* — які бывае вечарам, *драўляны* — зроблены з дрэва, *гарадскі* — што знаходзіцца ў горадзе, *студэнцкі* — які мае адносіны да студэнтаў), праз адносіны прадмета да дзеяння (*капіравальны, стругальны* — з дапамогай якога можна капіраваць, стругаць) і інш. У залежнасці ад гэтага ўсе прыметнікі падзяляюцца на якасныя (абазначаюць прыкмету прадмета непасрэдна) і адносныя (абазначаюць прыкмету прадмета праз адносіны да яго іншага прадмета, дзеяння і г. д.).

Якасныя прыметнікі абазначаюць якасці і ўласцівасці, што ўспрымаюцца органамі пачуццяў: *лёгкі, востры, гарачы, мокры, цвёрды, салодкі, смачны;* прасторавыя і часавыя якасці: *вялікі, вузкі, хуткі, доўгі;* фізічныя, псіхічныя і разумовыя якасці жывых істот: *здаровы, малады, лысы, худы, добры, разумны, шчодры;* колеры і іх адценні, масць жывёл: *белы, шэры, фіялетавы, гняды, палласы.* Якасныя прыметнікі могуць абазначаць супрацьлеглыя прыкметы, і таму яны ўтвараюць антанімічныя пары: *далёкі — блізкі, светлы — цёмны, стары — малады, добры — дрэнны.*

Прыметнікі з якасным значэннем маюць ступені параўнання: звычайную, вышэйшую і найвышэйшую *(лёгкі, лягчэйшы, найлягчэйшы)*. Форма вышэйшай ступені параўнання (кампаратыў) утвараецца з дапамогай суфіксаў *-ейш- (-эйш-), -ей- (-эй-, -ай-)* і *-ш-*. Суфікс *-ейш- (-эйш-)* — найбольш рэгулярны і прадуктыўны, а суфікс *-ей- (-эй-, -ай-)* — менш прадуктыўны: *чысцейшы, маладзейшы, даражэйшы; мацней, даражэй* (у мове паэзіі магчымы варыянт *дарожай*), *ярчэй: Хіба ён* ***спраўнейшы*** *за мяне?* (А. Чарнышэвіч); *Неба зусім нахмурылася і, здаецца, стала* ***ніжэйшае*** (тамсама); ***Даражэй*** *за ўсё свабода* (Я. Колас). Прыметнікі з суфіксам *-ей- (-эй-, -ай-)* не змяняюцца ў родзе, ліку і склоне і ў сучаснай мове ўжываюцца рэдка.

Пры ўтварэнні форм кампаратыву з названымі суфіксамі наглядаецца чаргаванне перадсуфіксальных зычных *г, з — ж; к — ч; х — ш; д — дз'; т — ц'* і інш., а ў асобных выпадках — і ўсячэнне зыходнай асновы [выпадае суфікс *-к- (-ок-)*: *блізкі — бліжэйшы, глыбокі — глыбейшы*, хоць у гаворках магчымы і формы без усячэння суфікса *-к- (-ок-)*: *саладзейшы* і *саладчэйшы, глыбейшы* і *глыбачэйшы*].

Прыметнікі *малы, вялікі, добры, дрэнны* ўтвараюць форму кампаратыву ад іншых (суплетыўных) асноў з дапамогай суфікса *-ш-*: *-меншы, большы, лепшы, горшы*. Прыметнік *малады* (пры абазначэнні ўзросту) утварае паралельныя формы: *маладзейшы* і *малодшы*. Пры абазначэнні пасады або звання нормай лічыцца форма *малодшы*, аднак у выразах накшталт *малодшы лейтэнант, малодшы навуковы супрацоўнік* слова *малодшы* трэба лічыць не кампаратывам, а прыметнікам, які атрымаў значэнне звычайнай ступені. Такі ж характар мае і прыметнік *старшы* пры абазначэнні пасад і званняў: *старшы сяржант, старшы лабарант*.

Значэнне вышэйшай ступені параўнання можа выражацца апісальна: спалучэннем прыслоўяў *больш (болей), менш (меней)* з прыметнікам у звычайнай форме: *больш роўны, болей гнуткі, менш дасканалы, меней заняты*. Значэнне меры ў такіх прыслоўях можа ўзмацняцца часціцамі *яшчэ, куды*, прыслоўем *значна* і іншымі: *яшчэ больш высокі, куды больш сучасны, значна менш дзіўны* і падобныя. Такія канструкцыі з'яўляюцца свабоднымі сінтаксічнымі спалучэннямі і таму не павінны кваліфікавацца як марфалагічная адзінка — форма кампаратыву. Такім чынам, суфіксальнае ўтварэнне форм кампаратыву мае ў беларускай мове канкурэнта — сінтаксічную канструкцыю з прыслоўем меры. Апісальны спосаб нават больш універсальны: з яго дапамогаю можна перадаць значэнне вышэйшай ступені ў тым выпадку, калі з дапамогай суфіксаў утварыць форму кампаратыву нельга (напрыклад, ад невытворных прыметнікаў *любы, ліхі, благі, горды* і інш., ад вытворных прыметнікаў *трывожны, паэтычны, крыклівы, цяністы, дзелавы* і інш.). Разам з гэтым у мове ёсць невялікая група якасных прыметнікаў, якім наогул не ўласціва значэнне кампаратыву. Гэта прыметнікі, у якіх якасць не можа праяўляцца ў большай ці меншай ступені: *жывы, мёртвы, лысы, халасты, жанаты, рагаты, гняды, буланы, вішнёвы, крыштальны, белакрылы* і падобныя.

Значэнне найвышэйшай ступені параўнання ў беларускай мове выражаецца з дапамогай словаўтваральных сродкаў — суфіксаў ці прыставак (суфіксы *-эзн-, -енн-* — ад звычайнай ступені: *высачэзны, здаравенны;* прыстаўкі *най-* — ад вышэйшай ступені: *найцікавейшы, найвелізарнейшы*) або сінтаксічна — спалучэннем слоў (*самы цікавы, самы цікавейшы, найбольш спрытны, няма нічога лепш за* і г. д.). Прыметнікі, а таксама сінтаксічныя спалучэнні са значэннем найвышэйшай ступені якасці звычайна ўжываюцца для перадачы гранічна высокай ці гранічна нізкай меры якасці, безадносна да параўнання: *Кажуць, **наймацнейшае** каханне ў жанчын першае, а ў мужчын — апошняе* (У. Карпаў); *Мабыць, **найбольш гаваркі, вясёлы і спрытны** на словы быў сёння Віктар* (М. Зарэцкі); ***І не было нічога ярчэй за** сонца на родным небе...* (П. Панчанка).

Якасныя прыметнікі маюць поўныя і кароткія формы. Поўная форма прыметніка ўзнікла ў працэсе развіцця мовы ў выніку спалучэння кароткай (іменнай) формы з формамі займеннікаў (*синь + и — синий, синя + ю — синяя, сине + ю — синее*), і таму з пункту гледжання гісторыі мовы поўная форма з'яўляецца вытворнай. Але ў сучаснай мове становішча змянілася: цяпер поўная форма лічыцца зыходнай, і ад яе ў пэўных выпадках можна ўтвараць кароткую форму. Кароткія формы прыметнікаў змяняюцца па родах і ліках, яны не скланяюцца. Гэта звязана з той роляй, якая адведзена ім на сучасным этапе: кароткая форма звычайна выконвае функцыю іменнага кампанента састаўнога выказніка: *Ён* [дзядзька] ***невысок, не надта ёмак,** ды **карчавіты** і **няўломак*** (Я. Колас); *Мне ўсё **дарага** тут, **люба, родна, прыгожа*** (П. Броўка). Кароткая форма прыметнікаў у сучаснай беларускай мове ўжываецца рэдка. У ролі азначэння яна наогул не сустракаецца, сляды такога ўжывання можна знайсці хіба толькі ў складзе ўстойлівых спалучэнняў (*усё **роўна***) у мове вуснай народнай творчасці (***на** *сіне мора*). З кароткімі формамі нельга змешваць сцягнутыя (усечаныя) формы поўных прыметнікаў, якія сустракаліся ў мове паэзіі і ў народных гаворках: *дзявоча сэрца, белу хустку, песні салаўіны* і г. д. Такія сцягнутыя формы з'яўляюцца азначэннямі і скланяюцца.

А д н о с н ы я  п р ы м е т н і к і называюць прымету прадмета праз адносіны яго да асобы ці жывой істоты (*дзіцячы погляд, мацярынская ласка, мядзведжы крок*), да іншага прадмета ці абстрактнага паняцця (*дамашняе заданне, філасофскі вывад*), да прасторы ці месца (*лясны змрок, марская хвароба*), да часу (*заўтрашні дзень, леташні год*), да матэрыялу або рэчыва (*бярозавы венік, керамічны посуд*), да дзеяння (*вылічальны цэнтр, купальны касцюм*), да колькасці (*двайны падлік*), да прыналежнасці аднаго прадмета другому прадмету ці асобе (*камандзірскі планшэт, вучнёўскі сшытак*), да прызначэння прадмета (*пасудная паліца*).

У групе адносных вылучаецца асобная п а д г р у п а  п р ы н а л е ж н ы х  п р ы м е т н і к а ў, якія абазначаюць прыкмету паводле прыналежнасці прадмета пэўнай асобе ці жывой істоце: *Максімавы боты, Аленчына хата, удовін сын, буслава гняздо*. У назоўным і вінавальным склоне такія прыметнікі маюць кароткую форму.

Калі прыналежныя прыметнікі страчваюць значэнне індывідуальнай прыналежнасці пэўнай асобе ці жывой істоце і атрымліваюць больш шырокае значэнне — пачынаюць указваць на ўласцівасць, характэрную для тых ці іншых асоб, жывёл і г. д., на іх тыповыя прыкметы,— тады такія прыметнікі набліжаюцца да звычайных адносных (у літаратуры яны іншы раз называюцца адносна-прыналежнымі): *матчыны парады, бацькавы клопаты, птушыны шчэбет*.

Развіццё пераносных значэнняў у адносных прыметніках прыводзіць да пераходу іх у якасныя. Так, у спалучэннях *жалезная воля, шаўковыя валасы, тэатральны жэст* былыя адносныя прыметнікі набылі якаснае значэнне. Параўнаем: *Гудзі, мая мова, **сярэбраным звонам*** (Н. Гілевіч). У сваю чаргу, асобныя якасныя прыметнікі ў складзе тэрміналагічных спалучэнняў набываюць значэнне адносных: *чорная металургія, лёгкая прамысловасць, мяккі* [зычны] *гук* і падобныя.

Змяненне прыметнікаў па склонах у адзіночным ліку (у мужчынскім, жаночым і ніякім родзе) і ў множным ліку называецца скланеннем прыметнікаў. Род, лік і склон прыметніка залежаць ад роду, ліку і склону назоўніка, з якім звязаны гэты прыметнік у сказе (ці ў больш шырокім кантэксце). Вылучаюцца тры тыпы скланення прыметнікаў: ад'ектыўнае, змешанае і нулявое. Да ад'ектыўнага тыпу адносяцца ўсе поўныя формы адносных і якасных прыметнікаў. Змешанае скланенне ўтвараюць прыналежныя прыметнікі, якія ў назоўным і вінавальным склонах маюць кароткую, а ва ўсіх астатніх склонах — поўную форму. Нулявое скланенне — гэта скланенне нязменных прыметнікаў (*касцюм беж, мова урду*); такія прыметнікі ва ўсіх склонах маюць нулявы канчатак.

Словаўтварэнне прыметнікаў адбываецца спосабамі суфіксацыі (пчала — *пчаліны*, агонь — *вогненны*, рассыпаць — *рассыпісты*, халодны — *халаднаваты*, двое — *двайны*, свой — *свойскі*, летась — *леташні*), прэфіксацыі (ваенны — *антываенны*, вышэйшы — *найвышэйшы*), канфіксацыі, калі да ўтваральнай асновы адначасова далучаюцца прыстаўка і суфікс (від — *міжвідавы*, мера — *празмерны*), асноваскладання (*руска-беларускі, марозаўстойлівы, гука-літарны, працаёмкі*), асноваскладання ў спалучэнні з суфіксацыяй (*кароткачасовы, дробназярністы*), зрашчэння кам-

панентаў *(фосфарзмяшчальны, шматабзацаючы, вышэйпамянёны)*.

У сказе прыметнік звычайна выконвае функцыю азначэння і размяшчаецца перад азначаемым назоўнікам: *Коні ляцелі ў ноч, і **слабы месяц** асвятляў іх **доўгія грывы**, і недзе наперадзе бегалі па купінах **сінія агні*** (У. Караткевіч). Размяшчэнне прыметніка-азначэння пасля назоўніка — гэта адхіленне ад прамога парадку слоў, параўнаем у мове мастацкай літаратуры: *Наш **край нарачанскі**, край сініх азёраў, ты сёння **красой веснавою** цвіцеш* (М. Танк). Прыметнік таксама выконвае функцыю іменнай часткі састаўнога выказніка: *Надвор'е **было цудоўнае*** (А. Карпюк); ***Славен бубен** за гарамі* (прымаўка).

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Ш у б а П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987; Б у л а х а ў М. Г. Прыметнік у беларускай мове. Мн., 1964.

*П. П. Шуба.*

## ПРЫНАЗОЎНІК

Прыназоўнік — службовае слова, з дапамогай якога выражаюцца адносіны паміж галоўным і залежным кампанентамі словазлучэння. У якасці галоўнага кампанента выступаюць словы, якія маюць здольнасць кіраваць іншымі словамі, а ў якасці залежнага — назоўнікі, займеннікі і іншыя субстантываваныя словы. Напрыклад: ***За** гарой, лясочкам сонейка заснула, **да** сябе дзянёчак ручкай прыгарнула* (А. Александровіч); ***У** кузні мех **да** позняга шуміць* (А. Астрэйка); *Хай знайду я свой лёс **у** тваім працавітым сягонні* (К. Буйло). Спалучэнне прыназоўніка са склонавай формай назоўніка можа функцыяніраваць у сказе і без галоўнага кампанента словазлучэння: ***У** суседзяў нас сустрэлі ветліва.*

Сінтаксічныя адносіны паміж галоўным і залежным словам, аформленыя з дапамогай таго ці іншага прыназоўніка, лічацца значэннем гэтага прыназоўніка. У сучаснай беларускай мове вылучаюцца наступныя значэнні прыназоўнікаў: прасторавыя *(вяртацца з горада, жыць **за** мяжой)*, часавыя *(уставаць **да** ўсходу сонца)*, аб'ектныя *(рыхтавацца **да** экзаменаў, распытваць **пра** службу)*, пераходу з аднаго стану ў другі *(пілаваць бервяно **на** дошкі)*, меры і ступені *(вада **да** пояса)*, якасныя *(яйка **пад** маянэзам)*, колькасныя *(больш **за** дзвесце, плаціць **па** рублю)*, размеркавальныя *(перабіраць **па** каліву)*, прыналежнасці *(ключы **ад** хаты)*, параўнальныя *(пазней **за** ўсіх)*, спосабу дзеяння *(бегчы **без** аглядкі)*, прычынныя *(пачарнелі **ад** дажджу)*, мэтавыя *(пайсці **ў** грыбы)*, прыблізнасці *(пачакаць **з** хвіліну)*. Сваё значэнне прыназоўнік выражае ў цеснай сувязі са склонавай формай залежнага слова. Большасць прыназоўнікаў кіруе толькі адным склонам: родным *(ад, без, да, дзеля, для, ля, каля, замест, паводле* і інш.), давальным *(згодна, насустрач, услед, дзякуючы* і інш.), вінавальным *(пра, праз, цераз* і інш.), творным *(па-за, у сувязі з* і інш.). Прыназоўнікі *аб, на, пры* патрабуюць вінавальнага і меснага склонаў, *над, пад* і *перад* — вінавальнага і творнага, *паміж* — роднага і творнага. Невялікая колькасць прыназоўнікаў ужываецца з формамі трох склонаў залежнага слова: *з, за* і *між* — з формамі роднага, вінавальнага і творнага, *па* — давальнага, вінавальнага і меснага, *у* — роднага, вінавальнага і меснага. Аднак не заўсёды ўжыванне пералічаных прыназоўнікаў з двума ці трыма склонамі з'яўляецца нормай у сучаснай мове. Выпадкі выкарыстання *аб, над, перад* і *пры* з вінавальным склонам — рэдкія, іх трэба кваліфікаваць як архаізмы або дыялектызмы *(забыўся **аб** ратунак, разумнік — **над** усё сяло, стань **перад** мае вочы)*. Тое ж можна сказаць і пра ўжыванне ***між*** з вінавальным і ***за*** — з родным *(пазірае месячык **між** хмары, жалі жыта **за** прыгону)*. Устойліва патрабуюць двух склонаў толькі прыназоўнікі *за, між, паміж, на* і *пад*, а трох — *з, па* і *у*.

Паводле свайго паходжання прыназоўнікі дзеляцца на невытворныя і вытворныя. Н е в ы т в о р н ы м і лічацца прыназоўнікі, што страцілі жывую сувязь са словамі, ад якіх утварыліся. Гэта прыназоўнікі *а, аб, без, да, для, дзеля, з, за, к, каля, ля, між, на, над, па, пад, перад, пра, праз, пры, у, цераз*. З пункту гледжання сучаснай літаратурнай мовы нельга кваліфікаваць як складаны і прыназоўнік *паўз*. Толькі гістарычна можна ўстанавіць суадноснасць з прыслоўямі (ці са спалучэннем слоў) прыназоўнікаў *акрамя, апрача, замест, наконт, накшталт, паводле, сярод*. Невытворныя прыназоўнікі вызначаюцца адносна простым саставам і мнагазначнасцю сінтаксічных адносін, якія з іх дапамогаю выражаюцца.

В ы т в о р н ы х прыназоўнікаў значна больш. Іх можна класіфікаваць паводле часціны мовы, з якой яны захоўваюць словаўтваральную сувязь. Гэта прыназоўнікі адпрыслоўныя *(абапал, блізка, вакол, міма, насустрач, наперад, пасля, побач, паблізу, поруч, супраць, услед* і інш.), адпрыметнікавыя *(адносна, адпаведна, згодна* і інш.), адназоўнікавыя *(шляхам, за выключэннем, за кошт, з мэтай, з прычыны, пры дапамозе, у адносінах, на адрас, у выніку, у гонар* і інш.). Такія складаныя канструкцыі могуць самі злучацца з невытворнымі прыназоўнікамі, утвараючы спалучэнні, якія звязваюць галоўны і залежны кампаненты словазлучэння: *на чале з, па шляху да, у адказ на, у адрозненне ад, у адносінах да, у адпаведнасці з, у залежнасці ад, у параўнанні з, у сувязі з* і інш.

Утварэнне вытворных прыназоўнікаў адбываецца за кошт канкрэтызацыі прасторавых, часавых ці акалічнасных значэнняў простых невытворных прыназоўнікаў: невытворны прыназоўнік спалучаецца з прыслоўем, якое абмяжоўвае яго значэнне. У выніку ўтвараюцца прыслоўна-прыназоўнікавыя канструкцыі, якія ў сучаснай мове выконваюць ролю прыназоўнікаў: *удалечыні ад, збоку ад, побач з, поплеч з, разам з, следам за* і інш.

Некаторыя прыназоўнікі паходзяць таксама ад дзеепрыслоўяў *(дзякуючы, не лічачы, уключаючы, канчаючы, выключаючы* і інш.), а таксама ад спалучэнняў дзеепрыслоўяў з невытворнымі прыназоўнікамі *(нягледзячы на, пачынаючы ад, пачынаючы з)*.

Паводле марфемнага складу прыназоўнікі бываюць простыя і складаныя. Да п р о с т ы х адносяцца тыя, якія складаюцца з адной каранёвай марфемы (*а, аб, без, пра, праз* і пад.), а д а с к л а д а н ы х — якія складаюцца з двух ці больш прыназоўнікаў *(з-за, з-над, па-над, па-за, паміж, паміма, з-па-над, з-па-за* і інш.). Складаных прыназоўнікаў у беларускай мове няшмат, і ўжываюцца яны не часта.

Многія з невытворных прыназоўнікаў бытуюць у мове ў некалькіх варыянтах *(у — ў — ва, з — са, аб — аба, над — нада, пад — пада, перад — перада, апрача — апроч, акрамя — акром* і інш.). Звычайна ў моўнай плыні яны вымаўляюцца без націску: прыназоўнік уваходзіць у склад наступнага слова ў якасці праклітыкі.

У сінтаксічнай канструкцыі прыназоўнік звычайна размяшчаецца пасля галоўнага кампанента перад залежным: *Села **пад** пушчаю Восень, вочы ўтаропіла ўдаль...* (Я. Купала). Сувязь прыназоўніка з залежным кампанентам вельмі цесная, што дазваляе ўжываць такую канструкцыю без галоўнага слова: *«**На** лодках, **на** лодках!» — закрычалі хлопцы пасля слоў настаўніка.*

Паміж прыназоўнікам і залежным словам можа быць дапасаванае азначэнне, выражанае асобным словам ці нават цэлай сінтаксічнай канструкцыяй: *Паказаў ён **на** вялікую, **на** чатыры акны, **пад** гонтавым дахам хату* (І. Шамякін). Галоўны кампанент словазлучэння, як правіла, не можа знаходзіцца паміж прыназоўнікам і залежным словам. Аднак калі за прыназоўнікам ідзе дапасаванае да залежнага слова азначэнне, то галоўнае слова можа стаяць пасля гэтага азначэння перад залежным словам: ***На** шырокі выйшаўшы гасцінец, зніме шапку пыльны пехацінец* (П. Броўка). Праўда, такі парадак слоў больш уласцівы мове паэзіі.

Размяшчэнне прыназоўніка перад залежным словам з'яўляецца нормай

для большасці беларускіх прыназоўнікаў. Аднак некаторыя прыназоўнікі (*наперакор, наперарэз, насустрач* і інш.) могуць знаходзіцца і пасля залежнага слова, што не лічыцца парушэннем нормы. Параўнайце: *Ісці **насустрач** яму — ісці яму **насустрач.***

Пры аднародных залежных кампанентах прыназоўнік можа і не паўтарацца: *Заспявалі **пра** ноч і каханне* (А. Куляшоў). У мове паэзіі і вуснай народнай творчасці нярэдка сустракаюцца выпадкі, калі прыназоўнік пры азначэнні і азначаемым паўтараецца: ***Над** маім **над** высокім парканам распускаецца клён малады* (У. Хадыка).

Сістэма прыназоўнікаў у беларускай мове развіваецца, узбагачаецца і ўскладняецца. Іх выкарыстанне дае магчымасць больш дакладна выказаць тыя ці іншыя адносіны ў параўнанні з беспрыназоўнікавымі канструкцыямі. Гэта, аднак, не азначае, што кожны раз трэба аддаваць перавагу першым: сустракаюцца сінанімічныя выразы, калі лепш выбраць беспрыназоўнікавы варыянт. Параўнайце: *багаты рыбай — багаты **на** рыбу, заданне **па** вывазцы лесу — заданне вывезці лес* і інш. Прыназоўнікавыя канструкцыі ў падобных выпадках часта могуць мець афарбоўку канцылярызмаў, непажаданых моўных штампаў.

*Літ.:* Шуба П. П. Прыназоўнік у беларускай мове. Мн., 1971; Яго ж. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. *П. П. Шуба.*

## ПРЫСЛОЎЕ

Прыслоўе — часціна мовы, якая абазначае непрацэсуальную прыкмету іншай прыкметы. У сінтаксічнай канструкцыі прыслоўе прымыкае звычайна да дзеяслова — выразніка працэсуальнай прыкметы (дзеяння або стану): ***весела** адпачываць, **доўга** ехаць;* прыметніка: ***залішне** сур'ёзны, **вельмі** прыгожы;* прыслоўя: ***празмерна** страката.* У рэдкіх выпадках прыслоўе можа спалучацца з назоўнікам: калі назоўнік мае значэнне прыкметы (***зусім** не лайдак*) або працэсу (*абход **звечара**, паездка **ўтраіх***), а таксама ў эліптычных канструкцыях (*дарога **дахаты**,* г. зн. «дарога, якая вядзе дахаты»).

Прыслоўі — словы нязменныя, і толькі ўтвораныя ад прыметнікаў якасныя прыслоўі на *-ó (-а)* маюць формы ступеняў параўнання. У сказе прыслоўі пераважна выконваюць ролю акалічнасці, зрэдку — выказніка (*сястра была **замужам;** горад ад нас **далёка***), недапасаванага азначэння (*дарога **дадому***). Пры ўмове субстантывацыі прыслоўі могуць выступаць і ў ролі іншых членаў сказа (напрыклад, дзейніка: *Прыйдзе светлае **заўтра***).

Паводле лексічнага значэння прыслоўі падзяляюцца на ўласна-характарызуючыя (якасныя) і акалічнасныя. Уласна-характарызуючыя абазначаюць уласцівасці, якасці, інтэнсіўнасць выяўлення ці меру якасці прыкметы. Напрыклад: *аддана, звонка, смела, глыбока, шырока, інакш, нараўне, па-свойму* і інш. Гэтыя прыслоўі адказваюць на пытанне *як?*, і большасць з іх суадносна з якаснымі прыметнікамі (таму іншы раз іх называюць якаснымі): ***Молада, хораша, звонка** іграў гарманіст* (Я. Брыль). У сваю чаргу ўласна-характарызуючыя прыслоўі падзяляюцца на некалькі семантычных падгруп: параўнання (*віхрам, роем, па-суседску* і інш.), сумеснасці (*удваіх, гуртам* і інш.), спосабу дзеяння (*бягом, цішком, убрід* і інш.).

Акалічнасныя прыслоўі паказваюць на розныя акалічнасці, абставіны, пры якіх адбываецца дзеянне або рэалізуецца прыкмета. Гэта прыслоўі месца (*блізка, высока, дамоў, сюды, адгэтуль, здалёк, даверху* і інш.), часу (*вечарам, даўно, зранку, давеку, дацямна* і інш.), прычыны (*завошта, спрасонку, сгарапу* і інш.), мэты (*знарок, напаказ, сумысна* і інш.).

Паводле характару выражэння лексічнага значэння прыслоўі падзяляюцца на знамянальныя і займеннікавыя. Лексічнае значэнне знамянальных прыслоўяў характарызуецца канкрэтнасцю: *добра, высока, нараўне, удваіх* і інш. Значэнне займеннікавых — неканкрэтнае, абагульненае; дакладнае значэнне яны атрымліваюць толькі ў кантэксце. Як і самі займеннікі, займеннікавыя прыслоўі падзяляюцца на шэраг груп: асабовыя (*па-мойму, па-нашаму, па-вашаму* і інш.), зваротныя (*па-свойму*), указальныя (*тут, там, туды, так, тады* і інш.), азначальныя (*усяк, усюды, заўсёды, інакш* і інш.), няпэўныя (*дзесьці, куды-небудзь, абы-калі* і інш.) і адмоўныя (*нідзе, нікуды, ніколі* і інш.).

Якасныя прыслоўі на *-ó (-а)*, суадносныя з прыметнікамі, могуць выражаць значэнні звычайнай, вышэйшай і найвышэйшай ступеняў параўнання. Граматычнае значэнне ступені характарызуецца тым, што прыкмета абазначаецца безадносна да ступені яе выяўлення (*весела, хутка, добра*), вышэйшай ступені — у большай меры яе выяўлення ў параўнанні са звычайнай (*весялей, хутчэй, лепш*) і найвышэйшай — у самай высокай ступені прыкметы (*найлепш, вельмі хутка*).

Граматычнае значэнне звычайнай ступені не мае спецыяльнага сродку, гэта т. зв. немаркіраваная форма ў сістэме ступеняў параўнання. Значэнне вышэйшай ступені выражаецца з дапамогай суфіксаў *-ей- (-эй-, -ай-)* і *-ш: ахвотней, сушэй, ніжэй (ніжай), болей (больш), меней (менш).* Формы з суфіксам *-ш-* утвараюцца ад іншых каранёў (не ад тых, якія адзначаюцца ў прыслоўях звычайнай ступені), г. зн. суплетыўна: *многа — больш, мала — менш, добра — лепш, дрэнна — горш.* Прыслоўі з суфіксам *-ш-* выступаюць як дублеты прыслоўяў з суфіксам *-ей- (-ай-): болей, меней, лепей, горай.* Значэнне вышэйшай ступені можа быць выражана і спалучэннем формы звычайнай ступені з прыслоўямі *больш (болей), менш (меней): больш заўзята, меней спакойна.* Такія спалучэнні многімі моваведамі кваліфікуюцца як складаныя (аналітычныя) формы ў процівагу аднаслоўным, якія лічацца простымі (сінтэтычнымі).

Граматычнае значэнне найвышэйшай ступені не мае рэгулярнага спосабу выражэння. У адных выпадках — гэта прыставачныя ўтварэнні ад форм вышэйшай ступені (*найраней, найпрасцей, найгорш*), у другіх — спалучэнні прыслоўяў *вельмі, дужа, надта, надзвычай,* а таксама *найбольш* і *найменш* з формамі звычайнай ступені або слова *сáма* — з формамі вышэйшай ступені (*вельмі добра, дужа трывожна, найбольш загадкава, сама менш*). Да прыставачных дэрыватаў могуць быць далучаны часціцы *як, чым, што,* якія ўзмацняюць значэнне найвышэйшай ступені: *як найлепш, чым найхутчэй, што наймацней.* Напрыклад: ***Найраней** за ўсіх устае* (П. Пестрак); *Як імя тваё **найлепей** вымавіць, каб яно гучала ласкавей?* (П. Глебка); *Лес шумеў неяк **вельмі нудна*** (Я. Колас); *Гэты дом быў пабудаваны **сама пазней*** (К. Чорны); *Справа толькі ў тым, каб гэта правесці **як найлепш*** (П. Пестрак).

Значэнне найвышэйшай ступені не заўсёды мае аднолькавае напаўненне: у адных выпадках яно ўказвае на самую высокую ступень у параўнанні з чым-небудзь, у другіх — безадносна да чаго-небудзь іншага. Гэта тлумачыцца тым, што спосабы яго выражэння не знайшлі яшчэ рэгулярнай граматычнай формы, таму больш дакладным будзе меркаванне, што гэта значэнне выражаецца лексічна (прыставачнымі дэрыватамі ад форм вышэйшай ступені) або сінтаксічна (спалучэннямі слоў).

Словаўтварэнне прыслоўяў адбываецца спосабамі афіксацыі і складання, а таксама пераходу слоў з іншых часцін мовы ў прыслоўі.

У якасці афіксальных ужываюцца суфіксальны, прыставачны, прыставачна-суфіксальны спосабы. Пры суфіксальным утварэнні прыслоўяў у якасці суфікса выкарыстоўваецца марфема, звычайна звязаная сваім паходжаннем са склонавым канчаткам назоўнікаў. Найбольш прадуктыўным з'яўляецца суфікс *-а-* (пад націскам — *-ó*), які ўзыходзіць да канчатка вінавальнага склону: *высока, доўга, беззапаветна, даўно.* Прадуктыўнымі трэба лічыць таксама суфіксы, якія ўзыходзяць да канчаткаў творнага склону: — *-ам (-ём, -ом), -ем, -ою (-ёю, -аю), -ой (-ёй, -ай), -у (-ю), -амі (-ямі).* Напрыклад: *вечарам, досвіткам, часам, пехатой, зрэдку, рыссю, прыхваткамі.*

Прыставачны спосаб не вызначаец-

ца прадуктыўнасцю. Гэты спосаб аб'ядноўвае словаўтваральныя тыпы прыслоўяў з прыстаўкамі *не- (ня-), ні-, на-, у-, па-, за-, най-*: ***некуды, нідзе, навокал, навечна, упоперак, занадта, надалей, найбольш.***

Прыставачна-суфіксальны (конфіксны) спосаб аб'ядноўвае даволі вялікую колькасць словаўтваральных тыпаў беларускіх прыслоўяў. У якасці першага кампанента конфікса выкарыстоўваецца марфема, звычайна звязаная сваім паходжаннем з прыназоўнікам, а ў якасці другога — марфема, якая ўзыходзіць да склонавага канчатка скланяльнай часціны мовы: ***злева, зранку, дачыста, па-асенняму, па-суседску, наперад, наўдалую, уголас, упрочкі, нарэшце, увечары, паволі*** і інш. У якасці словаўтваральнага сродку ў прыслоўях тыпу *наперад, уголас* і падобных вылучаецца не толькі прыстаўка *(на-, у-)*, але і нулявы суфікс (*на-...-∅*; *у-...-∅*). Многія словаўтваральныя тыпы конфікснага спосабу даволі прадуктыўныя.

Спосабы складання, а таксама складанне ў спалучэнні з афіксацыяй займаюць адносна невялікае месца ў сістэме словаўтварэння беларускіх прыслоўяў. Гэта такія складаныя прыслоўі, як *штогод, штораз, чынчынам, раз-пораз, сам-на́сам, якраз* і інш. Складанасуфіксальных і канфіксальна складаных прыслоўяў вельмі мала: *мімаходам, напаўголаса, напаўсілы* і некаторыя іншыя.

У прыслоўі могуць пераходзіць дзеяслоўныя формы. Так, ад інфінітыва ўтварылася прыслоўе *чуць*, ад дзеепрыслоўяў — прыслоўі *гледзячы, лежачы* і інш.: *Пайшоў казак* ***сумуючы*** *— нікога не кінуў* (Я. Купала).

Пры ўмове аслаблення і частковай страты лексічнага значэння прыслоўі могуць ужывацца ў функцыі прыназоўнікаў. Параўнайце: *стаяць* ***побач*** *— ісці* ***побач*** *з возам, хадзіць* ***вакол*** *—* ***вакол*** *дуба раслі грыбы.*

*Літ.*: Шуба П. П. Прыслоўе ў беларускай мове: Марфалагічны нарыс. Мн., 1962; Яго ж. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987; Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985. *П. П. Шуба.*

## ПРЫСТАЎНЫЯ ГУКІ

Прыстаўныя гукі — зычныя і галосныя гукі, якія ўзнікаюць у пэўных фанетычных умовах на пачатку слова. Адрозніваюць прыстаўныя, якія ўзніклі даўно і выяўляюцца толькі шляхам вывучэння гісторыі мовы або параўнання з блізкароднаснымі мовамі *(восем* з *осмь, ён* з *онъ, Орша* з *Ръша)*, і прыстаўныя, якія выяўляюцца шляхам унутрымоўнага аналізу *(возера — азёр)*. Апошнія з'яўляюцца адной з найважнейшых асаблівасцей беларускай мовы. Прыстаўныя зычныя [в], [й], [г] узнікаюць у пачатку слова або пасля прыставак перад націскнымі галоснымі і ў некаторых выпадках захоўваюцца перад ненаціскнымі: *востры, навобмацак, вугал, вучаніца, гэта, іней (йіней)*. Прыстаўны [в] узнікае перад ненаціскным [о], пры зыходзе націску ён адпадае: *возера — азёры, вопратка — апратка, навобмацак — абмацаць, восень — асенні.* Але ёсць некалькі выключэнняў. Гэта параўнальна нядаўнія ўтварэнні тыпу *одум, оканне, наогул* і большасць запазычаных слоў *(ордэн, осмій, оргія,* але *воцат, вохра)*. У шэрагу выпадкаў гэты прыстаўны захоўваецца і перад [а], якое паходзіць з [о] *(навокал — наваколле, ваколіца, вока — вачэй)*, у іншых выпадках магчымы варыянты з прыстаўным і без яго *(вокны — акно* і *вакно, востры — астрыць* і *вастрыць)*. Прыстаўны [в] узнікае таксама перад націскным і ненаціскным [у], калі гэты ненаціскны не з'яўляецца прыставачным, не ўзыходзіць да прыставачнага або не развіўся з [в]; параўнайце: *вугал, завулак, навучэнец*, але *узнікненне* (*у* — прыстаўка), *участак* (*у* развіўся з прыставачнага), *учора* (*у* развіўся з [в]). Перад [у] прыстаўны не знікае са зменай месца націску. Звычайна не бывае прыстаўнога [в] і ў запазычаннях: *універсітэт, унікальны*, але *вустрыца*. У некаторых словах перад [у] развіўся [в] у сярэдзіне слоў (устаўны): *павук, каравул, цівун.*

Як прыстаўны звычайна разглядаюць [й] у пачатку слова перад націскным галосным [і]: *іней* (йін'ей), *іскра* (йіскра), іхні (йіхн'і), хоць рэканструююцца праславянскія формы з пачатковым *$jь$*. Калі папярэдняе слова заканчваецца на цвёрды зычны, [й] звычайна знікае, а на месцы [і] гучыць [ы], хоць магчыма і яго захаванне: *пад інеем* (падын'ейем) і (падйін'ейем), *ад іскры* (адыскры) і (адйіскры) і г. д. Перад націскным і ненаціскным [і] у сярэдзіне слова [й] найчасцей не з'яўляецца прыстаўным, таму што адносіцца да кораня, а наступны [і] належыць суфіксу або канчатку: *героі* (г'ерой-і), *краіна* (край-ін-а). Устаўны [й] узнікае ў запазычаных словах перад [а], [о], [е] пасля галосных [і], [ы]: *стацыянар* (стацыйанар), *алімпіяда* (ал'імп'ійада), *перыёдыка* (п'ерыйодыка), *радыё* (радыйо), *біёлаг* (б'ійолах), *дыякан* (дыйакан), *піянер* (п'ійанер) і г. д., але на канцы слоў — *сальфеджыо, адажыо, Токіо;* пасля прыстаўкі — *дыэтан* і інш. Прыстаўны [й] развіўся ў займенніках 3-й асобы *ён* (йон), *яна* (йана), *яно* (йано), *яны* (йаны), відаць, пад уплывам форм ускосных склонаў. Ён не ўзнікае перад ненаціскным [і], асабліва, калі апошні сам з'яўляецца прыстаўным: *інтарэс, інстытут, ільняны, ірдзець, істужка.*

З'яўленне прыстаўнога [г] у літаратурнай мове вельмі абмежавана, хоць у паўднёва-заходніх дыялектах ён ужываецца досыць шырока: *гавёс, гуліца, гайца* і г. д. У літаратурнай мове ён прадстаўлены ў слове *гэты* (хоць выказвалася думка, што і тут ён не з'яўляецца прыстаўным), *Ганна, гармата.* Пранікаюць у яе таксама варыянты *востры* і *гостры, араць* і *гараць, арапнік* і *гарапнік* і г. д.

Прыстаўнымі галоснымі могуць быць [і] і [а]. Яны ўзнікаюць перад спалучэннямі зычных, першымі з якіх з'яўляюцца [р], [л], [л'], [м], [ў], а за імі ідуць шумныя зычныя або [в], [в']: *ірваць, ірдзець, ілгаць, імгла, аржаны, аўторак* і г. д.

У шэрагу выпадкаў фанетычная якасць прыстаўнога галоснага не мае значэння, у выніку чаго ўзнікаюць фанетычныя дублеты з [і] і [а]; відаць, існуе тэндэнцыя да ўзнікнення дублетаў з [а] у тых выпадках, калі наступным галосным з'яўляецца [а]: *аржаны* і *іржаны, амшара* і *імшара.*

У звязнай мове прыстаўныя галосныя ўзнікаюць толькі тады, калі папярэдняе слова заканчваецца на зычны гук: *пёк аржаны хлеб, выгляд ільва.* Калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны, то прыстаўныя знікаюць: *пякла ржаны хлеб, гляджу на льва.* Знікаюць яны і пасля прыставак на галосны: *імгла — замглёны, імчацца — памчацца.* У некаторых выпадках прыстаўны галосны ўзнікае і перад іншымі спалучэннямі: *істужка, ігруша.*

Да прыстаўных галосных не маюць адносін варыянты слоў літаратурнай мовы з пачатковым галосным і без яго тыпу *агарод* і *гарод, агурок* і *гурок, іграць* і *граць.* Не звязана з прыстаўнымі галоснымі і ўзнікненне [а] пасля прыставак на зычны перад некаторымі спалучэннямі зычных: *падабраць, падаткнуць, адарваць, абагрэць, разаслаць* і г. д. У гэтым выпадку [а] ўзнікае тады, калі ў корані ёсць беглы галосны: *адабраць — адбяру, падагнаць — падганю, адассаць — соска, разаслаць — рассцялю, разадраць — раздзяру* і г. д. У шэрагу выпадкаў [а] узнікае і пасля прыставак перад коранем, у якім назіраецца чаргаванне [ы], [і] з нулём гука: *адазвацца — адзывацца, падаткнуць — падтыкаць, адагнуць — адгінаць, разапхнуць — распіхаць* і г. д. Устаўны [а] узнікае і ў словах, у якіх толькі шляхам гістарычнага аналізу можна ўстанавіць бегласць галоснага ў корані: *саграць* — гістарычна той самы корань, што і ў слове *гарэць, абамлець* — гістарычна той корань, што і ў рускім *медлить* (калі ўлічыць, што спалучэнне *дл* спрасцілася да *л*) і г. д. Не з'яўляецца прыстаўным [а] і ў словах *абаранак* і *абабак.*

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984; Юргелевіч П. Я. Курс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі. Мн., 1974. *А. І. Падлужны.*

## ПРЭДЫКАТЫВЫ

Прэдыкатывы — лексіка-граматычны клас знамянальных слоў, якія маюць значэнні стану ці ацэнкі і выконваюць ролю адзінага галоўнага члена ці яго асноўнага кампанента ў безасабовых сказах: ***Пара** было ехаць; Вас **немагчыма** зразумець; На душы было **светла.***

Сама назва гэтага класа слоў яшчэ канчаткова не замацавалася ў граматычнай традыцыі. Можна сустрэць іншыя назвы: прэдыкатыўныя прыслоўі, безасабова-прэдыкатыўныя словы, словы катэгорыі стану. Доўгі час прэдыкатывы асобна, як клас слоў, не разглядаліся, яны аб'ядноўваліся ў адзін клас з прыслоўямі. Сапраўды, прыслоўі і прэдыкатывы маюць шмат агульнага: і тыя, і другія словы — нескланяльныя і неспрагальныя; якасныя прыслоўі і падобныя да іх па форме прэдыкатывы маюць формы ступеняў параўнання; і прыслоўі, і прэдыкатывы — словы вытворныя. Аднак на фоне агульнага ў гэтых класах слоў даволі ярка выступаюць рысы, якія іх адрозніваюць. Прыслоўе — звычайна залежны кампанент словазлучэння, дадаены член сказа. Прэдыкатыў — галоўны кампанент словазлучэння і амаль заўсёды адзіны галоўны член безасабовага сказа. Не супадаюць прыслоўі і прэдыкатывы і ў лексічным аб'ёме.

У адпаведнасці з лексічным значэннем сярод прэдыкатываў можна вылучыць некалькі груп. Яны могуць абазначаць: стан прыроды, стан асяроддзя, абставіны, фізічны стан жывых істот, псіхічны стан чалавека *(цёмна, цёпла, светла, чыста, прыгожа, балюча, няўтульна, прыемна, смешна, сумна, боязна* і інш.); аб'ектыўную ці суб'ектыўную ацэнку якога-небудзь стану ці становішча *(глыбока, лёгка, далёка, высока, вузка, рана, пара́, шкада* і інш.: *Нам **далёка** да дому);* меру чаго-небудзь *(мала, многа, досыць, шмат, даволі* і інш.: *Мне і гэтага **даволі**);* ацэнку чаго-небудзь з маральна-этычнага боку *(сорам, грэх, смех, смехата, ганьба* і інш.: ***Грэх** казаць такое);* мадальную ацэнку чаго-небудзь *(трэба, нельга, можна, немагчыма* і інш.: ***Трэба** змагацца за мір);* мадальна-валявыя імпульсы *(лянота, ахвота, неахвота* і інш.: ***Ахвота** вам з імі звязвацца!);* зрокавыя і слыхавыя ўспрыняцці *(відаць, чуваць: З вышыні было добра **відаць**, як на луг апускаўся туман).*

Ужыванне прэдыкатываў у ролі галоўнага члена безасабовага сказа абумовіла неабходнасць іх спалучэння са звязкамі *(быць, стаць, станавіцца, здавацца* і пад.), таму што толькі дзякуючы звязкам можна выразіць абавязковыя ў любым сказе сінтаксічныя значэнні часу і ладу. Адсутнасць звязкі пры прэдыкатыве ў безасабовым сказе — паказальнік сінтаксічнага цяперашняга часу.

Тыя прэдыкатывы, якія аманімічныя прыслоўям на *-а*, могуць мець формы звычайнай і вышэйшай ступені параўнання. Адрозніць прэдыкатывы ў сказе ад знешне падобных да іх прыметнікаў ці прыслоўяў у форме кампаратыва можна толькі па сінтаксічнай функцыі: *На дварэ стала цяплей (цяплей* — прэдыкатыў); *Цётка сёння цяплей павіталася з дзядзькам (цяплей* — прыслоўе).

Клас прэдыкатываў папаўняецца пераважна за кошт пераходу слоў з іншых часцін мовы. Невялікая колькасць слоў-прэдыкатываў ужо страціла непасрэдную словаўтваральную суаднoснасць з тымі часцінамі мовы, ад якіх яны некалі ўтварыліся. Гэта — т. зв. невытворныя прэдыкатывы: *нельга, можна, трэба, сорамна, боязна* і некаторыя іншыя. Пераважная ж большасць прэдыкатываў захоўвае жывую словаўтваральную сувязь з прыметнікамі, прыслоўямі, назоўнікамі і дзеясловамі. Так, з якаснымі прыметнікамі звязана паходжанне вялікай колькасці прэдыкатываў на *-а (цёпла, горача, суха, мокра, змрочна, сцішна, сумна, смешна, весела* і інш.). З прыметнікамі іх звязвае падабенства асноўнага прамога значэння (параўнайце: *Дзень быў цёплы — На дварэ **цёпла**).* Аманімічнае прыслоўе звязана не з прамым значэннем зыходнага прыметніка *цёплы*, а з яго пераносным значэннем *(цёпла павітацца, цёпла сустрэць).* Такія семантычныя адносіны прэдыкатываў і прыслоўяў з зыходнымі прыметнікамі паказваюць, што нельга сцвярджаць, быццам бы ўсе прэдыкатывы на *-а* паходзяць ад прыслоўяў ці наогул з'яўляюцца не чым іншым, як прыслоўямі. Асобныя ж прэдыкатывы *(немагчыма, неабходна, вусцішна)* наогул не маюць аманімічных прыслоўяў, а звязаны непасрэдна з прыметнікамі.

Разам з тым асобныя прэдыкатывы захоўваюць сувязь з прыслоўямі. Можна меркаваць, што прэдыкатывы *рана, позна, далёка, блізка, мала, многа, дастаткова, недастаткова*, а таксама *досыць, даволі* вядуць сваё паходжанне ад прыслоўяў. Адметнай марфалагічнай адзнакай, якая адрознівае гэтыя прэдыкатывы ад прыслоўяў, трэба лічыць аслабленне здольнасці ўтвараць форму кампаратыва: амонімы-прыслоўі на *-а* ў форме вышэйшай ступені параўнання — гэта норма, а амонімы-прэдыкатывы сярод пералічаных слоў — рэдкасць або адхіленне ад нормы. Напрыклад, можна сказаць: *Было яшчэ рана*, але нельга: *Было яшчэ раней.*

Асобныя прэдыкатывы звязаны сваім паходжаннем з назоўнікамі: *шкода (шкада́), сорам, смех, страх, пара, час* і інш. Пры пераходзе ў прэдыкатывы назоўнікі трацяць сваё значэнне прадметнасці, перастаюць скланяцца, у іх аслабляюцца значэнні ліку, звязка ў спалучэнні з такімі прэдыкатывамі пачынае ўжывацца ў форме ніякага роду (параўнаем магчымыя варыянты: ***пара́** была ўставаць — **пара́** было ўставаць).* Такія прэдыкатывы сапраўды можна лічыць сінтаксічнымі дэрыватамі назоўнікаў.

Нарэшце, прэдыкатывы *відаць, чуваць* суадносяцца з формай інфінітыва. (У гутарковай мове варыянтам прэдыкатыва *чуваць* з'яўляецца *чуць*. У К. Чорнага: *Яго хаду стала **чуць**.*) Словы *відаць, чуваць* у беларускай мове могуць ужывацца і як сінонімы дзеепрыметнікаў *відзён (-дна, -дно, -дны), чуцён (-тна, -тно, -тны).* Такія словы таксама спалучаюцца са звязкай, але яны ўжываюцца як кампанент састаўнога іменнага выказніка двухсастаўнога сказа і прэдыкатывамі не з'яўляюцца *(Здалёк **відаць** былі людзі; Чуваць **сталі** крокі).*

*Літ.:* Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987; Голанов И. Г. К изучению слов «категории состояния» в восточнославянских языках // Проблемы современной филологии: Сб. статей к 70-летию акад. В. В. Виноградова. М., 1965.

*П. П. Шуба.*

## ПСІХАЛІНГВІСТЫКА

Псіхалінгвістыка — навука пра моўную дзейнасць, працэсы спараджэння і ўспрымання маўлення. У той час як моваазнаўства традыцыйна даследуе канчатковы вынік моўнай дзейнасці, ці тэкст (пісьмовы або вусны), псіхалінгвістыка імкнецца вывучаць мову ў працэсе, каб выявіць тыя яе істотныя ўласцівасці, якія рэалізуюцца ў маўленні і звязаны з псіхікай і свядомасцю чалавека.

Да агульных псіхалагічных асаблівасцей нашай свядомасці, што даволі яскрава адлюстроўваецца ў маўленні, можна аднесці яе здольнасць аперыраваць адначасова такой колькасцю адзінак, якая знаходзіцца ў межах $7\pm2$ (ад пяці да дзевяці).

Найважнейшым сродкам ператварэння думкі ў выказванне і выказвання ў думку з'яўляецца ўнутранае маўленне, якое працякае звычайна бязгучна, але калі-нікалі знешне праяўляецца як варушэнне вуснамі, языком, а часам і як вымаўленне тых ці іншых нечленападзельных гукаў, асобных слоў. Чым больш стэрэатыпныя і простыя думкі мы выказваем і ўспрымаем, тым меншая адлегласць у нашай свядомасці паміж імі і словамі, тым цясней яны спалучаюцца і тым менш выкарыстоўваецца ўнутранае маўленне. Але ў людзей, якія недастаткова валодаюць мовай, а таксама ў дзяцей і ў гэтых выпадках унутранае маўленне выступае як неабходны кампанент ператварэння думак у словы і слоў у думкі. Так, калі дзеці пішуць дыктант з шырока адкрытым ротам, яны робяць у некалькі разоў больш

памылак, чым пры нармальным стане органаў маўлення. Пры выказванні складаных нестандартных думак унутранае маўленне робіцца неабходным практычна для ўсіх людзей, а працэс ператварэння думак у словы нагадвае часам рашэнне задач, якія вядомы пад назвай «пакуты слова».

Яшчэ больш складанай з'яўляецца моўная дзейнасць чалавека пры білінгвізме, ці двухмоўі. У білінгва, які валодае, напрыклад, беларускай і рускай мовамі, пры выкарыстанні няроднай мовы працуюць дадатковыя ўнутраныя механізмы. Апошнія ўзаемадзейнічаюць з механізмамі роднай мовы, і знешне сумесная работа гэтых механізмаў праяўляецца ў тых ці іншых асаблівасцях маўлення. Так, праведзеныя псіхалінгвістычныя эксперыменты паказваюць, што беларускае маўленне працякае павольней, чым рускае. Таму ў носьбіта беларускай мовы пры маўленні на рускай мове таксама запавольваецца моўны працэс, а пры недастатковым валоданні рускай мовай у маўленні назіраюцца паўзы, выкарыстанне так званых паразітычных гукаў, слоў і выразаў (тыпу *э-э-э, гм, ну, так сказаць* і г. д.), а часам і асобных беларускіх слоў, граматычных канструкцый. Усё гэта сведчыць пра тое, што білінгв думае на базе роднай мовы, а дадатковы час, які ўтвараецца пры запаволеным маўленні на няроднай мове і пры паўзах і паразітычных гуках, выкарыстоўвае для перакладу слоў з адной мовы на другую, у гэтым выпадку з роднай на няродную, з беларускай на рускую.

Працэсы ўспрымання і асэнсавання знешняй рэчаіснасці адбываюцца на базе мовы з дапамогай яе лексічных і граматычных сродкаў. Паколькі розныя мовы маюць неаднолькавы рэпертуар такіх сродкаў і нятоесную ўнутраную структуру, адна і тая ж знешняя з'ява прадстаўляецца ў розных умовах згодна з іх структурамі і ў адпаведнасці з жыццёвымі абставінамі, а выказванне пра гэту з'яву часта не дапускае паслоўнага перакладу з адной мовы на другую. Напрыклад, сказ на беларускай мове *У міжнародных адносінах зараз назіраецца пацяпленне* пры літаральным перакладзе на мову хіндзі (адна з індыйскіх моў) будзе ўспрыняты па сэнсе як абвастрэнне міжнароднай сітуацыі. Беларускі сказ трэба перакласці прыблізна так: *У міжнародных адносінах наступіла доўгачаканая прахалода.* Падобныя пытанні разглядаюцца ў так званай гіпотэзе лінгвістычнай адноснасці (гіпотэза Сэпіра — Уорфа), сутнасць якой зводзіцца да вырашальнай ролі мовы ў працэсах мыслення і паводзін чалавека, ва ўспрыманні ім знешняга свету. Але жыццёвыя назіранні і моўныя факты паказваюць, што адносіны паміж мовай, мысленнем, паводзінамі чалавека і знешняй рэчаіснасцю больш складаныя, чым іх трактуюць аўтары гіпотэзы. На самай справе не толькі мова ўплывае на тып мыслення і паводзіны чалавека, на характар успрымання навакольнага свету, але і гэты свет, умовы жыцця чалавека ўздзейнічаюць праз паводзіны і мысленне чалавека на яго мову, на ўзнікненне ў ёй адпаведных лексічных і граматычных структур. Людзі, якія жывуць на поўначы (ненцы, чукчы і інш.), у адпаведнасці з умовамі жыцця маюць у сваіх мовах шмат слоў, звязаных з рознымі назвамі снегу, тундры, аленяў, а жыхары паўднёвых краін больш падрабязна характарызуюць з'явы гарачага надвор'я, віды вярблюдаў (у арабаў). Адной з самабытных уласцівасцей чалавечай псіхікі з'яўляецца тое, што яна адчувальна і непасрэдна рэагуе на ўсе ўздзеянні на яе звонку і, у прыватнасці, на моўныя. Рэакцыі чалавека, які ўспрымае мову, могуць быць фізіялагічнымі (змены частаты пульса, расшырэнне зрэнкаў вачэй і да т. п.) і моўнымі. Улік і вывучэнне гэтых рэакцый дазваляе даследаваць будову мовы, а таксама і свядомасці, якая аперыруе ёю. Арганізацыя элементаў мовы і адпаведна элементаў свядомасці (чалавечай псіхікі) грунтуецца на разнастайных сувязях паміж імі, а гэтыя сувязі можна вызначыць, напрыклад, з дапамогай асацыятыўных (адзін з відаў псіхалінгвістычных) эксперыментаў. Сутнасць аднаго з найбольш пашыраных у псіхалінгвістыцы асацыятыўнага эксперымента заключаецца ў тым, што групе інфармантаў прад'яўляецца ў якасці стымула (моўнага ўздзеяння) якое-небудзь слова. Ад іх патрабуюць адказаць (запісаць ці сказаць вусна) першае слова-рэакцыю, што ўзнікла ў іх свядомасці. Напрыклад, на слова-стымул *сонца* адзін можа сказаць *прамень,* другі — *неба,* трэці — *яркае,* чацвёрты — *месяц,* пяты — *вясна* і г. д. Адказы-рэакцыі розных удзельнікаў эксперымента абагульняюцца ў адзін слоўнікавы артыкул, аналіз якога дазваляе выявіць найбольш пашыраныя і тыповыя сувязі паміж моўным стымулам і моўнай рэакцыяй. Характар гэтых сувязей дае падставу лічыць, што і паміж паняццямі, з якімі суадносяцца значэнні слоў-стымулаў і слоў-рэакцый, існуюць адпаведныя тыпы адносін, што ляжаць у аснове сістэмнай арганізацыі кампанентаў нашай памяці і свядомасці. Напрыклад, у «Асацыятыўным слоўніку беларускаи мовы» А. І. Цітовай (у ім змешчаны адказы 1000 інфармантаў на 150 самых ужывальных беларускіх слоў) артыкул, які ўзначальвае слова-стымул *сябар,* уключае ў сабе наступныя словы з частатой 10 разоў і больш: *добры* — 183; *лепшы* — 152; *мой* — 65; *верны* — 66; *таварыш* — 60; *шчыры* — 45; *дарагі* — 41; *дзяцінства* — 32; *сяброўка* — 29; *вораг* — 27; *чалавек* — 20; *школьны* — 17; *школа* — 15; *друг* — 14; *дружба* — 12; *дзяўчына* — 11; *найлепшы* — 10 (лічбы паказваюць частату гэтых слоў). Акрамя таго, з частатой менш за дзесяць разоў у артыкуле змешчаны 82 словы.

Сувязі, якія ўзніклі ў свядомасці носьбітаў беларускай мовы паміж словам-стымулам і словамі-рэакцыямі, можна абагульніць у некалькі тыпаў. У нашым выпадку з сінтаксічнага боку для назоўніка-стымула найбольш тыповымі з'яўляюцца азначэнні ў выглядзе прыметнікаў, якія якасна характарызуюць прадмет. Можна звярнуць увагу на тое, што станоўчы змест зыходнага слова даў яму выключна пазітыўныя характарыстыкі з боку інфармантаў выкарыстанымі прыметнікамі *(добры, лепшы, шчыры, дарагі* і інш.). З семантычнага боку сярод аднародных слоў-адказаў (г. зн. сярод назоўнікаў) найбольш тыповымі з'яўляюцца сінонімы *(таварыш, друг),* антонімы *(вораг),* гіперонімы *(чалавек),* аднакарэнныя словы *(сяброўка),* назоўнікі з тэматычнымі сувязямі *(дружба, школа* і інш.*).* Такія ж сувязі адзначаюцца і ў іншых слоўнікавых артыкулах. Гэта дазваляе гаварыць пра універсальны характар падобных сувязей і сцвярджаць, што сістэмная арганізацыя слоў у нашай свядомасці грунтуецца менавіта на невялікай колькасці семантычных адносін паміж словамі. Частотнасць тых ці іншых слоў-рэакцый можна разглядаць як паказчык устойлівасці канкрэтных сувязей: часцейшыя словы, якія выражаюць дадзены характар сувязі, фіксуюць у гэтым выпадку і большую яе ўстойлівасць у нашай памяці або ў мове цалкам, таму што свядомасць чалавека і ёсць моўная свядомасць.

Як і ўсякая іншая навука, псіхалінгвістыка імкнецца выкарыстаць вынікі сваіх даследаванняў для практычных патрэб чалавека, што прывяло да стварэння ў межах гэтай дысцыпліны прыкладной псіхалінгвістыкі. Галоўныя яе задачы — распрацоўка эфектыўных прыёмаў моўнага ўздзеяння на слухачоў (аптымальная арганізацыя сродкаў масавай камунікацыі, рэкламы, прапаганды і інш.), методык вывучэння роднай і замежных моў, лячэнне афазіі, а таксама распрацоўка пытанняў, звязаных са зносінамі ў сістэме чалавек — машына, з прыняццем правільных каманд і рашэнняў у сістэме кіравання.

Псіхалінгвістыка бярэ пачатак з вучэння В. Гумбальта і яго паслядоўнікаў Х. Штэйнталя і А. А. Патабні аб мове як псіхалагічнай з'яве. У былым СССР асновы псіхалінгвістыкі закладзены ў працах Л. С. Выгоцкага, Л. У. Шчэрбы, А. Р. Лурыі. На Беларусі псіхалінгвістычныя даследаванні мовы праводзяцца ў БДУ (А. Я. Супрун, А. І. Цітова) і Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце (Г. П. Кліменка і інш.).

*Літ.:* Горелов И. Н. Разговор с компьютером: Психолингв. аспект проблемы. М., 1987; Клименко А. П. Психолингвистика. Мн., 1982; Леонтьев А. А. Мир человека и мир языка. М., 1984; Лурия А. Р. Основные проблемы нейролингвистики. М., 1975; Основы теории речевой деятельности. М., 1974; Психолингвистика. М., 1984; Слобин Д., Грин Дж. Психолингвистика. М., 1976; Щерба Л. В. Языковая система и речевая деятельность. Л., 1974.

*Б. А. Плотнікаў.*

## ПТАШНІКАЎ ІВАН МІКАЛАЕВІЧ



Беларускі пісьменнік І. М. Пташнікаў нарадзіўся 7 кастрычніка 1932 г. ў в. Задроздзе Лагойскага раёна. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (1978). У 1957 г. скончыў БДУ. У 1957—58 гг. працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР, у 1958—62 гг.— у часопісе «Маладосць», з 1962 г. рэдактар аддзела прозы часопіса «Полымя».

Друкуецца з 1952 г. Першая кніга «Зерне падае не на камень» (1959). Аўтар раманаў «Чакай у далёкіх Грынях» (1962), «Мсціжы» (1970), «Алімпіяда» (1984), аповесцей «Лонва» (1965), «Тартак» (1968), «Найдорф» (1975), шматлікіх апавяданняў.

Творчасць І. Пташнікава адлюстроўвае агульную заканамернасць сучаснай літаратурнай мовы — актыўнае ўзаемадзеянне сродкаў гутарковага і кніжнага стыляў. У раманах, аповесцях, апавяданнях пісьменніка жывое народнае слова, нярэдка характэрнае для мясцовай гаворкі, арганічна, нязмушана ўлучаецца ў сістэму моўна-выяўленчых сродкаў. Вядома, такая структурна, па-мастацку самабытная, індывідуальная мова з'явілася не адразу. Яна ўзнікла і ўсталёўвалася праз засваенне і пераадоленне літаратурных, моўных традыцый.

Звернемся да першых твораў І. Пташнікава, у прыватнасці да рамана «Чакай у далёкіх Грынях». У аўтарскай мове — апісаннях, пейзажных замалёўках — заўважаем традыцыйныя метафары: *Лес маўчаў: суцішыўся, замёр.* ⟨...⟩ *на цыбатых слупах паўзлі правады.* ⟨...⟩ *Яна* [шаша] *намарылася за дзень, адвірыла, адгрукала па мастках грузам і — адпачывала. Здавалася, яна распласталася на няроўнай зямлі і, як той касец, што змардаваўся на сіўцы за дзень, хоча астыць, наліцца сілай.* ⟨...⟩ *цікуе з-за абгарэлых пнёў ноч* ⟨...⟩ *А шаша ў цемені адсвечвае, як у поўню, бы хто па ёй расплёхаў пабелку, як па тых чалесніках перад святамі.* Характэрна, што расказ, пачаты з метафар, «прызямляецца» параўнаннямі, у аснове якіх — рэаліі жыцця, з'явы і прадметы навакольнага свету. У далейшым якраз у кірунку дэталізацыі, канкрэтызацыі выкладу (у значнай ступені праз параўнанне) ішло развіццё стылю І. Пташнікава. Метафарычнасць не стала такой істотнай рысай пташнікаўскай прозы, якой яна з'яўляецца ў творах Я. Коласа, Я. Брыля, І. Мележа. У першым сваім рамане І. Пташнікаў не абыходзіцца без звыклага ў беларускай літаратуры ўжывання ў аўтарскай мове слоў прастамоўных, экспрэсіўных, адкрытай аўтарскай ацэнкі: *Аркадзь таксама* ***не плявузгаў;*** *Пачыналі нанава* ***рассусольваць*** *пра лася і папа, пра папа і лася.* Фразеалагізмы часам ужываюцца не так з патрэбы, як з традыцыі аддаць належнае гэтым «сакавітым» выразам: *Яна гаварыла доўга, з гадзіну.* ***Да сёмага поту.*** Але і гэты прыклад, напэўна, нельга разглядаць у адрыве ад сістэмы сродкаў і спосабаў мастацка-вобразнай канкрэтызацыі ў І. Пташнікава. У мове рамана прыкметны ўплыў публіцыстычнага стылю: *Любяць у Грынях кіно — будуць па колькі разоў глядзець; шануюць танцы — да раніцы і старыя і малыя выседзяць; паважаюць спектаклі, што ставяць настаўнікі,— аж далоні гараць ад воплескаў: «Гэта ж такі ціятар...» Не абыходзяць у Грынях і лекцый і любых вечароў.* Можна заўважыць перайманне творчай манеры іншых пісьменнікаў, у прыватнасці Кузьмы Чорнага *(У бясхмар'і дня чулася блізкая восень).* Але галоўнае, што трэба адзначыць: у рамане «Чакай у далёкіх Грынях» акрэсліваецца ўласна пташнікаўская стылёвая дамінанта. Яна выяўляецца ў дэталізацыі апісання, у своеасаблівай будове сказа, тэксту: *Пасля гарачага дня стаяў халадок. У паветры мітусілася машка; яе тут як хто насыпаў, не дыхнуць. Калі глядзець на сонца, здавалася, у вочы пырскаюць дробненькія іскрачкі з вялікага нагрэтага прыску.*

Пісьменнік, выпрацоўваючы сваю апавядальную манеру, пачынае з выкарыстання тых моўна-стылёвых сродкаў, якія назапасіла літаратура. Узяць параўнанні. Без іх не абыходзіцца, мабыць, ніводзін мастак слова. Але ўжывае параўнанні кожны пасвойму. Калі, напрыклад, у Я. Коласа параўнанне — адзін з многіх моўных сродкаў, то ў І. Пташнікава — гэта ці не асноўны сродак і спосаб мастацкай дакладнасці выказвання. Параўнанні вельмі натуральныя ў пташнікаўскай прозе. Яны вынікаюць з дзейснага пазнавальнага ўспрымання і асэнсавання навакольнай (вясковай) рэчаіснасці: [Дзед Тодар] *падняўся на дыбкі, пагладзіў далонню бараду,* ***бы правёў асцярожна траплом па палойцы ільну*** («Чакай у далёкіх Грынях»). Параўнанне дапамагае канкрэтызаваць, выявіць зрокава дзеянне *(пагладзіў)* і дадае істотны штрых да вобраза персанажа — паказвае адносіны дзеда да працы, захапленне ёю. Параўнанне — і традыцыйнае, і індывідуальна аўтарскае — займае вялікае месца ў творах І. Пташнікава. *Пасля Чаркашын махнуў рукой музыканту,* ***нібыта сыпнуў яму жменю манет,*** *і адразу ж топнуў нагой. Пачуўся рэзкі стук,* ***бы дзе стрэліла калясо пад прычэпам*** («Лонва»); *Валерка моцна дзяржаў руль сваімі доўгімі худымі рукамі,* ***як усё роўна падпёр яго палачкамі з двух бакоў.*** *Яго выгаралая майка стала мокрая,* ***як вынялі з вады;*** *на шыі і на плячах выступілі дробненькія кропелькі поту, па макавай расінцы, і натапырыліся кароценькія рэдкія белыя валаскі,* ***як у курчаці, якое яшчэ не абсохла, вылупіўшыся з-пад скарлупкі*** («Алімпіяда»). З дапамогай параўнанняў, часта разгорнутых, пэўны прадмет, з'ява, дзеянне, прыкмета дэталізуюцца, акрэсліваюцца — выяўляюцца як індывідуальныя, непаўторныя. Нават да сонца прыкладаюцца зямныя меркі: *Сцяпан апёрся на плот і глядзеў на пагорак, дзе з-за чорных хмар-тулягоў выкочвалася сонца,* ***як вялікі нагрэты камень з печы*** («Сцяпан Жыхар са Сцешыц»); *Чырвонае, вялікае,* ***як кола ад калёс,*** *сонца кранулася беражком далёкага сіняга ельніку ў канцы загумення, і на ферму апала вячэрняя цішыня* («Алімпіяда»); *Збоку над лагчынай, над вострай далёкай елкай з груганом на макаўцы, выскачыла раптам белае сонца, як усё роўна наверх на хмары, сцебанула* (!) *па вачах,* ***нібы ручніком*** («Алімпіяда»). Параўнанні ў творах І. Пташнікава шмат у чым вызначаюць адметнасць апавядальніцкай і стылёвай манеры пісьменніка, з'яўляюцца адной з прыкмет яго асацыятыўнага пісьма.

Асновай узнікнення той ці іншай асацыяцыі або ланцужка асацыяцый можа стаць пах, колер, гук, фізічны і нервова-псіхічны стан персанажа. Так, у рамане «Мсціжы» паказваецца стан і адчуванні хворага Андрэя Вялічкі, які ляжыць у бальнічнай палаце. *Каб толькі хто ўзяў зацягнуў фіранкі... Няма як глядзець: сіняя*

*зорка коле аж у мазгі... Рассыпаецца на іголкі і коле.* ⟨...⟩

*Ён убачыў вузенькую палоску сіняга неба, здалося — халоднага, як лёд. Неба дрыжала разам з зоркай, што ў мароз, калі на дварэ трашчалі платы і зрубы ў студнях. Якраз як той зімой, перад апошняй блакадай, калі ён вёз Рукалеева ноччу з лагера ў вёску да Балюты. Неба тады было сіняе, і з яго пырскалі зоркі. Ад марозу раўлі па снезе палазы; ад інею зрабіліся белыя і лес і конь. Зліпаліся павечкі, не было як глядзець.*

На пачатку творчага шляху пісьменніка нярэдка папракалі за празмерную дэталізацыю, за стылёва-моўныя празмернасці. Але такі папрок можна рабіць хіба толькі тады, калі не ўлічваць мастацкага прызначэння той ці іншай мясціны тэксту. Вось урывак з аповесці «Тартак»: *У кожнага лунінца стаяла скрыначка на каленях. Чатыры скрыначкі былі пагнутыя, і лунінцы, папрасіўшы рыдлёўкі, зарылі іх разам з патронамі ў зямлю ля плота на мяжы. З пятай толькі высыпалі патроны на стол і падзялілі, а скрыначку пакінулі ў кутку на лаве за сталом.* Калі б гэты расказ быў цалкам ад аўтара, то апусціць асобныя члены сказа было б можна: далей у тэксце абставіны паступова раскрываюцца. Аднак тут пісьменнік апавядае з пункту погляду Насты — відавочцы падзей, іх удзельніцы, і ў шматлікіх момантах — яе голасам. Незвычайнасць абставін (пад носам у немцаў), прыход невядомых людзей (партызанаў) актывізавалі работу думкі. Што за людзі, як да іх ставіцца? Таму ва ўсім, што датычыць гэтых новых людзей, няма для гераіні дробязяў. Што гаварылі, дзе ступалі, што рабілі — усё яна заўважае, запамінае. Гэтыя прадметы (*патроны, скрыначкі*), дзеянні *(папрасіўшы рыдлёўкі)* вельмі істотныя для характарыстыкі персанажаў — і партызанаў, і Насты. Такія мясціны аўтарскай мовы, у якіх чуваць голас, меркаванне персанажа, адзначаюцца рознаструктурнасцю частак сказа, іх вонкавай нібыта нязвязнасцю. Але ўнутрана, псіхалагічна такая будова матываваная, дзякуючы ёй добра перадаецца ўзрушанасць, усхваляванасць дзейнай асобы, вірлівая плынь яе думак.

Прыродная дапытлівасць, усёвідушчы погляд селяніна ў пташнікаўскіх творах адлюстраваны з вялікай мастацкай сілай і трапнасцю. Увагу героя (і аўтара) займаюць не толькі пэўныя прадметы і дзеянні, але і прычыны, абставіны іх змен ці ўзнікнення. Для перадачы прычынна-выніковых сувязяў паміж прадметамі, з'явамі шырока ўжываюцца ўстаўныя, пабочныя, далучальныя сінтаксічныя канструкцыі, бяззлучнікавыя сказы. *Пад ногі траплялася каменне і кавалкі жалеза, відаць, ад плугоў: тут летась увосень стаялі трактары, калі карчавалі і аралі Лазу* («Чакай у далёкіх Грынях»); *Пасля з дарогі запахла сенам — перастаяла трава — і здалёку ў твар дыхнула настоем спелага ячменю* («Алімпіяда»); *Запахла сырадоем — карова, мусіць, дыхнула пад страху на вуліцу: ад яе кожны раз, калі яна дыхала, пахла сырадоем* («Мсціжы»).

Канкрэтызацыя прадмета, дзеяння, прыкметы ў шмат якіх выпадках дасягаецца з дапамогай адасобленых паясняльных зваротаў. *Запахла лесам — свежым дрэвам і мокрым снегам* («Мсціжы»); *Ззаду за ім, за плячыма, стаяла Верка з малым на руках; воддаль былі людзі — уся вёска: ён убачыў іх, азірнуўшыся* («Тартак»); *Немцы за людзьмі паказаліся не адразу — пазней. Ішлі воддаль ззаду, густа, кучкамі, у руках у іх былі відаць кароткія аўтаматы — бліскалі, як бітае шкло* («Мсціжы»); *Ля вёскі ў лажку цякла маленькая, дзіцяці пераступіць, крынічка, парослая мячэўнікам і асакой...* («Алімпіяда»).

Часта функцыю ўдакладнення, паяснення выконвае інфінітыў або асабовая форма дзеяслова з адмоўем *не: Над загонам вісеў пыл — не глянуць; ... яна паяўлялася ў палаце злосная, натапыраная — не кралі...; Ведаў добра вагі і запісваў у кнігу чысценька і акуратненька да літаркі — не прычэпішся* («Алімпіяда»).

У асобных выпадках мастацкая канкрэтызацыя бывае, можна сказаць, абсалютнай: *У вочы ўсмоль лезлі камары, **жоўтыя, худыя*** («Тартак»); *Запахла снегам — **прэснай і чыстай** вільгаццю* («Тартак»); *Спружына ўвачку знікла, **патухшы*** («Алімпіяда»).

Нават з прыведзеных ілюстрацый відаць, што І. Пташнікаў, спорна чэрпаючы з жывой народнай мовы, не пераносіць яе ў свой твор сырую, неўзбагачаную. Ён па-гаспадарску, дарэчы карыстаецца здабыткамі літаратурнай мовы, у прыватнасці часта ўжывае разгорнутыя дапасаваныя азначэнні, характэрныя для кніжных стыляў: *Горкі ад дыму, сыры ад размешанага глею на пераправе, дзе прайшлі нямецкія танкі, укачаны ў жвір на беразе, вецер аж зрываў нос* ⟨...⟩ («Тартак»); *Паказалася Ячнае — доўгая, расцягнутая на вярсту вёска з выгнутай у калене вуліцай і рассыпанымі паабапал яе старымі і новымі хатамі з жэрдкамі-антэнамі над стрэхамі. За ёй збоку было відаць жоўтае на сонцы поле — асушаная Дроздка...* («Алімпіяда»); *Ехалі абочынай па траве, мінаючы ўсохлыя глыбокія калдобіны і хаваючыся пад навіслым над самай дарогай бярозавым галлём з дробным, шорсткім ад сухаты лісцем* («Алімпіяда»).

Пры агульнай вялікай колькасці дзеепрыметнікаў з суфіксамі *-л-, -н-, -т-* у ролі азначэнняў (часам па некалькі ў адным сказе) у творах І. Пташнікава не сустракаем не ўласцівых жывой народнай мове дзеяслоўных формаў тыпу *цвітучы, расцвіўшы.* Такія формы, дастатковыя для «пейзажных замалёвак» у газетных артыкулах, нарысах, былі б занадта агульнымі, неканкрэтнымі ў пташнікаўскім творы: пісьменніку трэба дакладнасць у перадачы колеру і адценняў цвету, які бывае ў розных раслін у пэўны момант часу. *У гародзе на мяжы ў высокай траве бегалі чырвоныя вёрткія андрукі — божыя кароўкі — і блішчэлі кропелькі расы. Раса была ўсюды: на зялёным у жоўтым цвеце агурочніку ў градах; на бручцы ля мяжы — на цёмным лапушыстым лісці; на густых зялёна-жоўтых парасончыках кропу; на белых квятках дудкаватай цыбулі — прыхопленая зімой у вялікія маразы, пайшла ў пук; на разгалістых, абгароджаных свежымі альховымі рагачыкамі высадках у канцы град; на капусце ля плота; на чырвонай канюшыне і спалавелай мятліцы за плотам на лажку; на высокім цёмным канаторжніку ля варыўні і на жоўта-белым ад цвету бульбеўніку ў гародзе* («Алімпіяда»).

Літаратурная, унармаваная мова — рэальнасць, з якой не можа не лічыцца ніводзін пісьменнік. Спарадкаванасць, чысціня аўтарскай мовы ўсведамляецца як неабходная рыса твораў эпічнага жанру, нават тых, аўтарская мова ў якіх шырока адлюстроўвае галасы, пункты погляду персанажаў. І хоць межы паміж мовай аўтара і дзейных асоб зрушваюцца і апавядальнае палатно нярэдка ўяўляе пераплячэнне гэтых моўных планаў, аўтарская мова ўсё ж захоўвае асноўныя свае рысы. Гэта адносіцца і да рамана «Алімпіяда»: аўтарская мова рамана дынамічная і разнастайная, аднолькава поўна выкарыстоўвае магчымасці як літаратурна-кніжнай, так і вусна-гутарковай і народна-дыялектнай мовы. І. Пташнікаў, вядома, карыстаецца рознымі тыпамі і відамі простых і складаных сказаў, але ўсё ж можна заўважыць яго асабістую прыхільнасць да сказаў з пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, з разгорнутымі прыдаткамі, аднароднымі і адасобленымі членамі і інш. Такія сінтаксічныя сродкі дазваляюць паспяхова рэалізавацца творчай манеры пісьменніка, да астатку дакладнай у апісанні. У рамане «Алімпіяда» значную мастацкую нагрузку нясуць метанімія, слоўныя досціпы, перабудова фразеалагізмаў і г. д. *Лета сёлета выдалася ягаднае, і **ўсе Плешчаніцы** з чырвонымі, белымі, сінімі пластмасавымі вёдрамі, абуўшыся ў гумовыя боты... кінуліся на пасекі аж за Белае...* Тут назва селішча перанесена на яго жыхароў (метанімія). У аўтобусе, які ішоў на Белае, *Міфодзя сядзеў ля акна з прыапушчаным шклом, куды яго, упіхнуўшы перад сабой, запёрлі **жанчыны ў чырвоных балоневых куртках** з капюшончыкамі і з такімі ж чырвонымі пластмасавымі вёдрамі ў руках.* Далей выраз *чырвоныя курткі* ўжываецца шмат разоў як назва жанчын-ягадніц: ... *пачало кідаць аўтобус, **чыр-***

***воныя курткі** лавілі адна адну рукамі...* У апошнім выпадку — перанос назвы з часткі на цэлае (сінекдаха). Вельмі арганічна, у адпаведнасці з гутарковым характарам аўтарскай мовы ўжываецца ў гэтым рамане народная фразеалогія: *Паехаў з вёскі ўчастак — паехаў і тэхнарук **сабакам сена касіць,** нават і **вачэй** пасля ні разу **не паказаў;** Пасля, **пазычыўшы ў сабакі вачэй,** прабег* [Валерка] *узадуперад процi магазіна, цiснучыся да плота — маткі нідзе не згледзеў.* Яшчэ часцей сустракаем тут фразеалагізмы, прыказкі і прымаўкі ў мове персанажаў. Ратнікаў — да Валеркі: ***Кроў з носа,** а знайдзі рысору. **З-пад зямлі выцягні.***

Багатая і разнастайная лексіка пташнікаўскіх твораў. Яе аснову складаюць спрадвечныя агульнаўжывальныя словы. Для адлюстравання сацыяльна-эканамічнага і культурнага ўзроўню беларускай вёскі 20 стагоддзя пісьменнік заканамерна выкарыстоўвае і параўнальна новыя лексічныя адзінкі, што ўвайшлі ў мову яе жыхароў: *антэна, бензапіла, камбайн, кантора, кароўнік, кузаў, лямпачка, малакавоз, тэлевізар, фара, ферма* і інш. Па-мастацку мэтазгодна ўжываецца спецыяльная лексіка (прафесіяналізмы): *Туды паварочвала дарога на торфазавод, уся застаўленая грузавымі машынамі: абношанымі **«газікамі»** і доўгімі новымі **ЗІЛамі*** («Мсціжы»); *Пакаціўся з фермы ў лагчыну **«газон»** Ратнікава* («Алімпіяда»); *Беглі трактары з прычэпамі — **«Беларусы»,** даганяючы машыны, чырвоныя, сінія...* («Мсціжы»). Глыбокая народнасць пташнікаўскай мовы вызначаецца і тым, што яна ўвабрала шмат слоў і сінтаксічных канструкцый з гаворак Лагойшчыны. Вось некаторыя характэрныя словы: *абы́рыцца* 'прывыкнуць', *ажарга́ць* 'стаць, сесці на што-небудзь, пераступіўшы яго', *беражні́ца* 'бераг', *выбіра́чка* 'выбіральшчыца', *га́тар* 'піларама', *дзе́учынёха* 'дзяўчына-падлетак', *до́дніца* 'досвітак', *дра́гаць* 'стукаць, грукаць', *ду́гаць* 'цяжка, гучна ступаць', *здрабяжы́ць* 'здратаваць', *знаць* 'заўважаецца, відаць', *крыжава́тка* 'скрыжаванне', *куна́ты* 'пышны, галінасты, раскідзісты', *куро́сня* 'седала', *луча́цца* 'трапляцца', *ляжэ́йка* 'падоўжная палка ў драбінах, біла', *несамно́га* 'няшмат', *неціхо́ты* 'неспакой', *пра́віцца* 'лаяцца, агрызацца', *со́снік* 'сасоннік', *спава́гі* 'паважна', *спо́паразку* 'раптам, адразу', *тарта́к* 'лесапільня', *то́фель* 'тапoля', *туля́г* 'вялікае воблака, хмара', *упо́бачкі* 'поплеч', *усягды́* 'заўсёды', *шафа́рня* 'вялікая скрыня' і інш.

Некаторыя словы адрозніваюцца ад літаратурных частковым несупадзеннем гукавога складу, месцам націску, граматычнымі характарыстыкамі: *аглабня* 'аглобля', *Барысава* 'Барысаў', *Бегамля* 'Бягомль', *бульбеўнік, высака, глыбака, грумада* 'грамада', *Даўгынава, дайна, карасіна* 'керасін', *ірзаць* 'іржаць', *касільно, квята* 'кветка', *пісяга* 'пісяг', *рукаво* 'рукаў', *цурчом* 'цурком', *шума́* 'шумавінне, накіп', *ялкі* 'ёлкі' і інш. Слова *блага* 'нудзіць' ужываецца як назоўнік жаночага роду: *Калі прайшла блага, зноў заныла ўсярэдзіне...* («Тартак»).

Асобныя дыялектызмы выкарыстоўваюцца паралельна з іх літаратурнымі адпаведнікамі. Так, аддаючы перавагу спалучэнню *без сціханага* (сустракаецца і аналагічнае *без сканчонага*), пісьменнік не цураецца агульнаўжывальных слоў *несціхана, не сціхаючы: Далёка ззаду засакатаў кулямёт. Стукаў доўга, **без сціханага;** Там **несціхана** грукала — усё роўна як грымеў гром; Над прагалам дрыжала **не сціхаючы** неба* («Тартак»). Частае ў творах І. Пташнікава слова *ўпобачкі* жыве ў добрым суседстве з яго сінонімам *побач: Браты Канэцкія разам ездзілі адзін за адным на тралёўку, **побач** ставілі коней у праварынах у канюшні, і тыя, выпражаныя, усюды былі **ўпобачкі*** («Мсціжы»). Як відаць з ілюстрацый, мясцовыя словы павялічваюць магчымасці мастацкага паказу. Многія з ужытых пісьменнікам слоў бытуюць і ў іншых гаворках Беларусі, маюць перспектыву пашырэння ў літаратурнай мове. Ужыванне дыялектызмаў падпарадкавана ў І. Пташнікава вырашэнню задачы максімальна праўдзівага, грунтоўнага паказу навакольнага асяроддзя і чалавека ў ім. Прырода, жыццё ўспрымаюцца і асэнсоўваюцца персанажам (нават праз аўтарскую мову) з дапамогай сродкаў яго роднай гаворкі (звычайна Лагойшчыны, дакладней — Прывілля).

Сінтаксіс пташнікаўскіх твораў, таксама як і лексіка і фразеалогія, нацыянальна самабытны і па-мастацку індывідуальна адметны. Гэта перш за ўсё вынік глыбокага засваення і творчага ўзнаўлення пісьменнікам граматычнага ладу жывой народнай мовы.

Напрыклад, шырока ўжываецца выказнік, выражаны паўназначным дзеясловам і аналагічнай формай дапаможнага дзеяслова *быць: Ён **быў** зноў **стаў** спопаразку: не ведаў, куды бегчы; Наста **была ўшчаміла** яго* [асвер] *у паркан, набіраючы нанач вады ў вёдры; Алёшу **было здалося,** што пацяплела на возе* («Тартак»). Часта сустракаюцца акалічнасці месца і часу, выражаныя назоўнікам у форме творнага склону: ***Гэтым месцам** у лесе павінна была быць рака — ён не помніў, мінаў масток ці не* («Агні»); *Пасля Таня ўбачыла, як **дарогай** ад Сушкава пёрся матацыкл, такі ж малы і з каляскай, што і пярэднія. Мінуў, аб'ехаўшы **ячменем,** Боганчыка, які стаў пасярод дарогі, і сыпануў з-пад сябе жарствы Тані аж на воз* («Тартак»); *Пеця Жардэцкі, кінуўшы школу, паехаў **маразамі** ў Данбас на шахты* («Бежанка»); *Маладыя* [ваўкі] *яшчэ ходзяць **цямном** гуляць — вылазяць па Кладках аж на бор пад зямлянкі* («Мсціжы»). Апошняе выдзеленае слова *цямно* ўжываецца таксама з прыназоўнікамі *з, за: Касу яна кляпала сама — кожны вечар, **з цямном,** калі паробіць усю работу* («Мсціжы»); *Паехаў жа адзін — папёрла нялёгкая,— на ноч гледзячы. Ну прыедзе **за цямном** яшчэ, ну знойдзе ў каго ў Выгарах у запечку сонната... Петражыцкага...* («Агні»). *За цямном* абазначае 'пакуль цёмна'. Параўнайце *за відном* 'пакуль відна': [Грасыльда] *уносіла ў сенцы з двара парожняе вядро, якое забылася прынесць **за відном*** («Лонва»).

Пісьменнік дбайна выкарыстоўвае рэсурсы беларускай літаратурнай і народна-дыялектнай мовы, знаходзіць мастацка матываванае месца кожнаму слову, фразеалагізму, сінтаксічнай канструкцыі.

*Літ.:* Андраюк С. Чалавек на зямлі. Мн., 1988; Нуждзіна Т. С. Аб некаторых стылявых асаблівасцях аповесцей Івана Пташнікава // Бел. літаратура. Мн., 1977. Вып. 5; Каўрус А. Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989. *А. А. Каўрус.*

## ПУБЛІЦЫСТЫЧНА-ПРАМОЎНІЦКІ СТЫЛЬ

Публіцыстычна-прамоўніцкі стыль выконвае дзве асноўныя функцыі— інфармацыі і ўздзеяння. Ён выкарыстоўваецца ў грамадска-палітычнай літаратуры, перыядычным друку, палітычных выступленнях, прамовах на сходах, мітынгах і г. д. (другая частка назвы стылю падкрэслівае яго бытаванне і ў вуснай форме). Прызначэнне публіцыстыкі — паведамляць навіны штодзённага жыцця, культуры, навукі, растлумачваць грамадска-палітычныя пытанні. Гэтым выклікана, з аднаго боку, выкарыстанне грамадска-палітычнай тэрміналогіі, з другога боку — моўных сродкаў для выказвання настрою, пачуццяў, у прыватнасці эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі. У публіцыстычным творы арганічна спалучаюцца лагічна-абстрактная, або навуковая, і эмацыянальна-вобразная, або мастацкая, формы адлюстравання рэчаіснасці. Разгледзім некаторыя стылёва-моўныя рысы тэксту: *Кніга — гэта вечны незгасальны агонь людскога сэрца і розуму. На працягу вякоў яна была адным з самых пэўных сродкаў перадачы вопыту ад пакалення ў пакаленне. Яна адзіны жывы сведка чалавечага прагрэсу. Не зважаючы на новыя тэхнічныя сродкі фіксацыі і перадачы гэтага вопыту ў нашу эпоху, кніга і цяпер служыць і надалей будзе нязменна служыць чалавеку* («Помнікі гісторыі і культуры Беларусі»). Тэкст вызначаецца актуальнасцю тэмы (значэнне кнігі, ведаў). Яму ўласцівыя пафаснасць, узнёсласць мовы; наяўнасць словазлучэнняў, характэрных для публіцыстычнага стылю: *незгасальны агонь, жывы сведка,*

*наша эпоха, нязменна служыць* і інш. З дапамогай гэтых моўных сродкаў перадаецца адкрытая ацэначнасць, эмацыянальнасць маўлення. Аўтарская ацэнка адлюстроўвае пашыраны ў грамадстве пункт гледжання.

У газетах мы сустракаем розныя матэрыялы (карэспандэнцыі, дзяржаўныя акты, законы, інфармацыю з розных галін навукі і тэхнікі, каментарыі падзей і г. д.). Залежна ад тэмы і мэты паведамлення публіцыстычны тэкст можа характарызавацца пэўнай колькасцю стылёвых і лінгвістычных прыкмет афіцыйнага, навуковага ці мастацкага стыляў. Так, паведамленне інфармацыйнага агенцтва пра даследаванне каметы Галея сваёй тэрміналагічнай дакладнасцю, аб'ектыўнасцю, кніжнай афарбоўкай блізкае да навуковай мовы: *Аўтаматычная станцыя «Вега-1», палёт якой ажыццяўляецца ў рамках мнагамэтавага міжнароднага праекта «Венера — камета Галея», паспяхова выканала праграму даследаванняў каметы Галея...*

*Пры праходжанні станцыі «Вега-1» паблізу ядра каметы з адноснай скорасцю каля 80 кіламетраў у секунду быў ажыццёўлены трохгадзінны сеанс навуковых вымярэнняў і здымак. У сеансах сувязі на Зямлю перададзена больш як 500 тэлевізійных здымкаў, знятых праз розныя святлафільтры, што дазволіла атрымаць каляровыя адлюстраванні каметы і яе ядра* («Звязда»). Гэты тэкст вызначаецца навуковай строгасцю і інфармацыйнасцю, адсутнасцю суб'ектыўнай ацэнкі, сродкаў вобразнасці і эмацыянальнасці. Публіцыстычныя артыкулы, радыё- і тэлеперадачы на грамадска-палітычныя тэмы адрасуюцца масаваму чытачу, слухачу, а таму іх мова павінна быць даступнай, дакладнай і выразнай. Дасягнуць гэтых камунікатыўных якасцей тэксту дазваляе выкарыстанне стылістычных рэсурсаў усіх разнавіднасцей літаратурнай мовы і народных гаворак. Аднак публіцыстыка мае і свае моўныя сродкі. Гэта адметная лексіка (*ажыццявіць, здзейсніць, працаўнік, першапраходца, пачын, ініцыятыва, архіважна, архіскладана*). Газета выпрацоўвае і пашырае сваю фразеалогію — перыфразы, іншыя ўстойлівыя выразы (*дабрачынная акцыя, гуманітарная дапамога, сацыяльная абароненасць насельніцтва, далёкае замежжа, стварэнне прававой дзяржавы, гарачыя кропкі*). З'яўленне ва ўжытку новых выразаў — вынік рэалізацыі творчай устаноўкі журналістаў на асаблівую экспрэсіўнасць мовы. Свежыя, трапныя на пачатку ўзнікнення, такія звароты, словы ад частага паўтору страчваюць свае фарбы і змястоўнасць, ператвараюцца ў штампы, у загану мовы. Таму аўтары імкнуцца ўвесь час абнаўляць і разнастаіць сродкі і спосабы выказвання.

Новыя індывідуалізаваныя кантэксты ствараюцца шляхам пашырэння спалучальнасці слоў, пераасэнсавання лексікі іншых стылістычных пластоў для патрэб публіцыстыкі, выкарыстання мнагазначнасці слова і магчымасцей словаўтварэння (неалагізмы), выкарыстання сродкаў стылістычнага сінтаксісу (рытарычна-пытальныя сказы, паўторы, інверсія, паралелізм і інш.), шырокага ўвядзення элементаў гутарковай мовы. Ілюстраваць гэтае сцверджанне часткова могуць тыповыя газетныя загалоўкі, выразнасць якіх грунтуецца на выкарыстанні мнагазначнасці і антаніміі: *З класа школьнага — у клас рабочы; Старыя праблемы новай службы.*

Сродкамі актывізацыі ўвагі чытача, слухача, сродкам стварэння вобразнасці і эмацыянальнасці маўлення выступаюць фразеалагізмы, крылатыя словы, прыказкі і прымаўкі. Гэтыя моўныя адзінкі бяруцца як назвы артыкулаў, нататак: *Куды ні кінь — усюды клін; Спяць у шапку; Хто як сее, так і вее.* Стылістычны эфект навізны выказвання дасягаецца перабудовай устойлівага выразу — заменай яго кампанентаў: *Не меў дзед клопату* (параўнайце: *Не мела баба клопату — купіла парася*); *Кабінет з краю* (параўнайце: *Мая хата з краю — я нічога не знаю*); *Рыхтуй лыжы летам* (параўнайце: *Рыхтуй сані летам*).

Спецыфіка публіцыстычнага стылю выяўляецца і ў граматыцы. У перыядычным друку, радыё- і тэлеперадачах актыўна выкарыстоўваюцца ўласныя імёны з суфіксам *-чын- (-шчын-)* тыпу *Брэстчына, Міншчына, Магілёўшчына, Мядзельшчына.* Пры гэтым яны могуць быць у адным тэксце з афіцыйнымі назвамі: *Як і раней, перакрыжоўваюцца на Гродзеншчыне вялікія і малыя шляхі. Да нас прыязджаюць госці, і мы вельмі рады добрым сябрам. Госць на парозе — шчасце ў доме. Толькі за апошнія пяць гадоў падвоіліся міжнародныя культурныя і эканамічныя сувязі Гродзенскай вобласці* («ЛіМ»). У прыведзеным тэксце заўважаем і такую рысу публіцыстычнага стылю, як зборнасць, якая тут рэалізавалася праз ужыванне займеннікаў *мы, нас* са значэннем 'група, супольнасць грамадзян Беларусі'.

У публіцыстычнай мове пашыраны іменныя выказнікі, у тым ліку выражаныя прыметнікамі: *Падбіраючы інтэрнацыянальныя экіпажы, Тур Хеердал імкнецца паказаць, што міжнароднае супрацоўніцтва* ***магчымае, карыснае і неабходнае,*** *што выкананне агульных задач зблiжае народы* («Звязда»). У ролі галоўных членаў сказа часта ўжываецца неазначальная форма дзеясловаў: *Берагчы і памнажаць прыродныя багацці; Марскому флоту Беларусі — быць; Разбураць — не будаваць* («Звязда»). Яскравасцю і экспрэсіяй вызначаюцца сказы з адсутным дзеяслоўным выказнікам: *За грыбы — абсталяванне; Мільёны — у фонд Чарнобыля; Два прызы з аднаго турнэ* («Звязда»).

Фарміраванне і развіццё публіцыстычнага стылю адбываецца на шырокай аснове літаратурнай і жывой народнай мовы. Галоўную ролю ў гэтым працэсе адыгрывае літаратурная дзейнасць прафесійна падрыхтаваных, таленавітых журналістаў. Важнае значэнне мае ўдзел вядомых пісьменнікаў (В. Быкаў, Н. Гілевіч, А. Адамовіч) у перыядычных выданнях. Майстры слова не толькі змяшчаюць у часопісах і газетах мастацкія творы актуальнай грамадска-палітычнай тэматыкі, але і выступаюць з публіцыстычнымі артыкуламі, нататкамі, прысвечанымі надзённым задачам нацыянальна-дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва. Пісьменніцкая праца ў газеце стымулюе дзеянне асноўнай тэндэнцыі ў развіцці публіцыстычнага стылю — унікненне кніжнасці і збліжэнне з гутарковай мовай.

*Літ:* Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1992; Кожина М. Н. Стилистика русского языка. М., 1977; Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976. *А. А. Каўрус.*

## ПУНКТУАЦЫЙНЫЯ НОРМЫ

Пунктуацыйныя нормы — пастаноўка знакаў прыпынку ў пісьмовым тэксце ў адпаведнасці з правіламі, якія прызначаны для абслугоўвання патрэб пісьмовых зносін у грамадстве і кадыфікаваны ў адпаведных актах. Парушэнне пунктуацыйных нормаў вядзе да пунктуацыйных памылак. Яны ўзнікаюць ад недастатковага ведання ўстаноўленых правілаў або ад недакладнасці зместу. Напрыклад, паводле правіла паміж дзейнікам і выказнікам знакі прыпынку не ставяцца або ў залежнасці ад граматычнай формы выказніка ставіцца працяжнік. Аднак у пісьмовай практыцы ёсць і такія выпадкі, калі паміж дзейнікам і выказнікам пастаўлена коска: *Барада, як дзяркач; Слёзы, як боб; Жыццё, што машына* (Усе ілюстрацыі ўзяты з друкаваных крыніц.— Рэд.). У прыведзеных сказах выказнік далучаецца да дзейніка пры дапамозе параўнальных злучнікаў, але гэта не дае падстаў для таго, каб паміж галоўнымі членамі сказа ставілася коска. Не трэба таксама ставіць коску паміж словамі, якія паўтараюцца і аб'ядноўваюцца параўнальным злучнікам *як* або супастаўляльным злучнікам *дык*: *Штаны, як штаны; Машына, дык машына; Сусед быў чалавек, як чалавек; Вось прыпякло, дык прыпякло.* У такіх сказах адно слова звычайна займае пазіцыю дзейніка, а другое — выказніка, або адно слова ўдакладняе і ўзмацняе значэнне другога слова, у выніку чаго ўтвараецца цэласнае структурна-семантычнае і інтанацыйнае адзінства, дзе асобныя кампаненты коскай не раздзяляюцца.

Парушэннем пунктуацыйнай нормы з'яўляецца пастаноўка коскі паміж двума аднароднымі членамі, якія аб'яднаны спалучальнымі злучнікамі ці размеркавальнымі злучнікамі *ці, або* (*альбо*), бо ўтвораныя спалучэнні вызначаюцца цэласнасцю і адзінствам свайго граматычнага, сэнсавага і інтанацыйнага афармлення: *Маладыя рабочы ў кашулі-касаваротцы схіліўся над ціскамі, і шоргае напільнікам; Мікалай думаў, ці так маўчаў; Невядома, гэта быў сон, або ява; Міколка і дзед кожнага вольнага дня ішлі з сабачкам на луг да ракі, альбо на балота і займаліся паляваннем.* Ад аднародных трэба адрозніваць адасобленыя члены з гэтымі злучнікамі, перад якімі звычайна ставіцца коска: *Ідзе дождж, і даволі вялікі; У беларускіх лясах гнездзіцца жаўна, або чорны дзяцел.*

Даволі складаныя нормы пастаноўкі знакаў прыпынку пры адасабленні даданых членаў у сказе. Тут назіраецца вялікі разнабой. Нельга абгрунтаваць выдзяленне адасобленых членаў, якія размешчаны ў сярэдзіне сказа, знакамі прыпынку толькі з аднаго боку: *Поле — шырокае, дзіўна харошае заціхла і дрэмле; Жняя маладая — стройная каліна ў глухой даліне жыта дажынала.* Паводле правіла яны павінны выдзяляцца з абодвух бакоў. Двухбаковае выдзяленне знакамі прыпынку адасобленых членаў у сярэдзіне сказа звязана з тым, што адасобленыя члены арганічна не ўваходзяць у структуру сказа, а выдзяляюцца ў выглядзе розных удакладненняў і дадатковых характарыстык паасобных яго кампанентаў. Апрача адасобленых членаў са структуры сказа могуць выдзяляцца пабочныя канструкцыі, якімі выражаюцца адносіны гаворачай асобы да таго, пра што паведамляецца ў гэтым сказе. А таму, калі такія канструкцыі знаходзяцца ў сярэдзіне сказа, іх трэба выдзяляць знакамі прыпынку з абодвух бакоў. Парушэннем пунктуацыйнай нормы лічыцца выдзяленне знакамі прыпынку пабочных канструкцый у сярэдзіне сказа толькі з аднаго боку: *Гаспадыня відаць, зразумела, што недарэчы пачала сваю размову; Рыбная сям'я, як нам здавалася меншае, хоць кармілі яе, сыпалі крошкі.*

Неапраўдана пунктуацыйнае афармленне, пры якім адасобленыя постпазіцыйныя азначэнні, выражаныя дзеепрыметнікавымі словазлучэннямі, і адасобленыя прапазіцыйныя акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі, не аддзяляюцца знакамі прыпынку ад таго кампанента, які яны характарызуюць або ўдакладняюць ці паясняюць у сказе: *На ім была кароткая крамная світка і летняя шапка нацягнутая казырком на вочы; Пакруціўшыся ля ракі дзеці зніклі ў лазняку.*

Наадварот, няма патрэбы выдзяляць знакамі прыпынку акалічнасці, выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі ці дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі і цесна звязаныя з паяснёным кампанентам у сказе. Нягледзячы на тое, што яны не з'яўляюцца адасобленымі членамі сказа, іх зрэдку памылкова выдзяляюць знакамі прыпынку: *Бацька кінуўся на скрыню і ляжаў, не раздзеючыся; Крушынскі гаварыў, не падымаючы галавы; Слышэня сядзеў у камеры, глыбока задумаўшыся.*

Адхіленне ад нормы будзе і тады, калі не тыя, што трэба, знакі прыпынку ставяцца паміж прэдыкатыўнымі часткамі складанага слова: *І гараць лясы-імшары,— дымяцца балоты; На золаку расу травы п'юць,— спеў чуцен птушыны.* У гэтых сказах замест коскі з працяжнікам трэба ставіць коску, бо менавіта яна адпавядае характару адносін адначасовасці або сумеснасці, якія выражаны паміж іх прэдыкатыўнымі часткамі. Паказчыкам прычынных адносін у складаным сказе *Не хлясціць Палессе пусткай, у дрыгве не гіне марна, узрасці на глебе тлустай маслабойні, сыраварні* з'яўляецца не коска, а двукроп'е.

Часам простая мова, якая суправаджаецца словамі аўтара, не бярэцца ў двукоссе ці не выдзяляецца працяжнікам: *Мы гукаем: Гэй, за намі, грамада!; І скажу матулі: Я адна у полі жыта дажынала, снопікі вязала я адна ў полі; Горных хрыбтоў абеліскі бязгучна шапталі: вар'ят!* Сустракаецца таксама пастаноўка лішніх знакаў прыпынку (двукосся ці працяжніка), напрыклад: *«Я прыехаў сюды працаваць, а не вылупліваць вочы на багамольных прыгажунь»,— сурова асудзіў ён сябе.— «Што скажуць людзі пра начальніка будаўніцтва, які страляе вачыма па кожнай сустрэчнай?»; На гэтым, застылым, акне «Хутка прыеду»— напісала ты мне.* Бывае, што там, дзе патрэбна двукоссе, пастаўлены працяжнік і наадварот: *Крыкнуў час мне: — спыніся на момант, яздок, глянь на гэты забыты табою куток!; Суцяшае радыё: — У пачатку мая на далёкай поўначы растаюць ільды...* Параўнайце: *Кажуць:*

*«Цішэй едзеш — далей будзеш».*

Ад пунктуацыйных памылак істотна адрозніваюцца нарматыўныя пунктуацыйныя варыянты, якія сведчаць пра сінтаксічную мнагазначнасць тэксту. Напрыклад, у складаным сказе *Павеяў ветрык / зашалясцела лісце бярозы* паміж прэдыкатыўнымі часткамі могуць ставіцца коска, працяжнік і двукроп'е: коска паказвае сінтаксічную раўназначнасць прэдыкатыўных частак, аб'яднаных спалучальнымі адносінамі і пералічальнай інтанацыяй, а працяжнік і двукроп'е сведчаць аб сінтаксічнай нераўназначнасці прэдыкатыўных частак, аб'яднаных умоўна-выніковымі або прычынна-выніковымі адносінамі і тлумачальнай інтанацыяй. Пунктуацыйныя варыянты, не парушаючы нарматыўнасці сучаснай пунктуацыі, дазваляюць дакладна афармляць структурную разнастайнасць пісьмовых тэкстаў і выражаць самыя тонкія адценні змешчаных у іх паведамленняў.

Захаванне пунктуацыйных нормаў аблягчае разуменне зместу напісанага або надрукаванага тэксту, павышае культуру пісьмовай мовы.

*Літ.:* Бурак Л. І. Адхіленні ад правіл і норм сучаснай беларускай пунктуацыі // Аб некаторых асаблівасцях беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1965; Яго ж. Пунктуацыя беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1982. *Л. І. Бурак.*

## ПУНКТУАЦЫЯ

Пунктуацыя (punctuatio ад лац. punctum кропка) мае два асноўныя значэнні: 1) сукупнасць знакаў прыпынку і правілы іх выкарыстання ў пісьмовым тэксце; 2) раздзел мовазнаўства, у якім вывучаецца пунктуацыйная сістэма і заканамернасці яе станаўлення і функцыяніравання.

Сучасная пунктуацыя гістарычна склалася ў дастаткова зладжаную сістэму графічных знакаў, якая з поспехам абслугоўвае патрэбы пісьмовых зносін у грамадстве. Самым старажытным знакам прыпынку з'яўляецца кропка, якая ўжываецца ў пісьмовай практыцы з 2 ст. да н. э. (упершыню яна выкарыстоўвалася ў грэчаскіх і лацінскіх тэкстах). У 14 ст. паявілася коска, у 15 ст.— двукроп'е і кропка з коскай, у 16 ст.— пытальнік і дужкі, у 17 ст.— клічнік і двукоссе, у 18 ст.— працяжнік і шматкроп'е. Да пачатку 19 ст. ў пунктуацыйнай сістэме былі ўжо ўсе знакі прыпынку, якімі карыстаюцца і ў наш час. Аднак сістэмнасць пунктуацыі выяўляецца не толькі ў наяўнасці пунктуацыйных знакаў і сукупнасці іх суадносін, але і заключаецца ў адзінстве і ўзаемадзеянні тых прынцыпаў, якія ляжаць у аснове пунктуацыі. Сярод гэтых прынцыпаў звычайна вылучаюцца граматычны, сэнсавы і інтанацыйны. Паводле граматычнага прынцыпу (Л. Зізаній, М. Грэч, Я. Грот, С. Буліч і інш.) знакі прыпынку абумоўлены структурнай будовай сказа, бо выдзяляюць сказы і часткі сказа з тым, каб лепш арганізаваць і аформіць пісьмовы тэкст. Паводле сэнсавага прынцыпу (М. Ламаносаў, Ф. Буслаеў, С. Абакумаў, А. Шапіра і інш.) пастаноўка знакаў прыпынку абапіраецца на сэнс выказвання, якое перадаецца ў сказе, паколькі знакі прыпынку ажыццяўляюць падзел тэксту на часткі, якія маюць значэнне для выражэння думкі пры пісьме. Паводле інтанацыйнага прынцыпу (М. Смятрыцкі, В. Вастокаў, А. Пяшкоўскі, Л. Шчэрба, Л. Булахоўскі і інш.) знакі прыпынку абумоўлены інтанацыйным афармленнем сказа, бо служаць

для абазначэння рытмікі і мелодыкі мовы, яе тэмпу і паўз паміж сказамі і часткамі сказаў. Як бачым, кожны з гэтых прынцыпаў грунтуецца на адной з дыферэнцыяльных адзнак сказа — сэнсавым змесце, граматычнай будове або інтанацыйным афармленні. Вядома, што ні граматычная будова сказаў, ні іх змест і інтанацыя не існуюць ізалявана, яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой і сумесна характарызуюць кожны сказ як асноўную камунікатыўную адзінку мовы. У кожным канкрэтным выпадку граматычная будова сказа, яго змест і інтанацыя рэалізуюцца па-рознаму і адыгрываюць розную (большую ці меншую) ролю ў выбары пэўнага знака прыпынку на пісьме. Але ва ўсіх выпадках гэтыя адзнакі сказа абавязкова ўлічваюцца, бо толькі ў сваёй сукупнасці яны з'яўляюцца той асновай, на якой грунтуецца сучасная пунктуацыя.

Знакі прыпынку адыгрываюць важную ролю ў пісьмовым тэксце. Яны прызначаны для таго, каб падзяляць тэкст на часткі, якія пэўным чынам арганізаваны, інтанацыйна аформлены і з'яўляюцца носьбітамі адпаведнага значэння. Знакі прыпынку выкарыстоўваюцца ў кожным сказе незалежна ад таго, складаецца ён з аднаго слова ці ўтвораны ў выніку спалучэння многіх слоў. Яны характарызуюць граматычную будову сказа, вызначаюць яго сэнсавыя і інтанацыйныя асаблівасці. Так, кропка ў канцы сказа сведчыць, што гэты сказ граматычна завершаны, мае адносна закончаны сэнс, аформлены апавядальнай інтанацыяй і функцыянірує як самастойная адзінка мовы: *Раніца. Свеціць сонца. Спяваюць розныя птушкі* (Я. Колас). Коска пры пабочных словах служыць для аддзялення ці выдзялення іх у структуры сказа, бо яны граматычна не звязаны з яго членамі, выражаюць дадатковы (пабочны) сэнс і афармляюцца інтрадуктыўнай (уключана-ўставачнай) інтанацыяй: *Відаць, нядаўна прайшоў добры дождж* (К. Чорны); *На дварэ, праўда, было ўжо холадна* (З. Бядуля). Двукроп'е ў сярэдзіне сказа паказвае, што гэты сказ распадаецца на састаўныя часткі, якія выражаюць прычынныя або тлумачальныя адносіны і вымаўляюцца некалькі напружаным тонам і паўзай «папярэджання» на стыку: *Горда стаялі плячыстыя гумны: усё лета забралі яны* (П. Броўка); *Мы знаем: у нашай краіне няма непрыгожай зямлі* (П. Панчанка).

Паводле функцыі, якую выконваюць знакі прыпынку ў сказе, яны бываюць раздзяляльныя і выдзяляльныя. Раздзяляльныя знакі прыпынку служаць для аддзялення самастойных сказаў у тэксце або асобных членаў простага сказа ці прэдыкатыўных частак складанага сказа. У канцы самастойных сказаў ставяцца кропка, пытальнік, клічнік і шматкроп'е або розныя іх спалучэнні: *Песнямі ўслаўляю сваімі наша жыццё маладое* (Я. Купала); *Чаму глядзяцца зоры ў люстэрка чыстых вод?* (М. Чарот); *З нетраў Беларусі льецца нафта чорнаю ракой!* (П. Прыходзька); *У вясёлы вечар мая салавей у гаі свістаў...* (Я. Колас); *Хіба ж не любавацца сваім прыгожым краем?!* (Я. Купала); *Беларусь мая родная, як жа я рвуся яшчэ раз пеша ўсю цябе змерацъ!..* (А. Куляшоў). Для аддзялення асобных членаў простага сказа і прэдыкатыўных частак складанага сказа ўжываюцца коска, кропка з коскай, двукроп'е, працяжнік і коска з працяжнікам: *Над палямі, лугамі, садамі зноў у вырай ляцяць жураўлі* (П. Прыходзька); *Спявалі пеўні; брахалі сабакі; чуліся людскія галасы* (К. Чорны); *На ўсходзе зарумжавела зара: канчалася кароткая летняя ноч* (І. Шамякін); *Калі выходжу пасля работы на вуліцу — іншы раз спяваць хочацца* (М. Гроднеў); *Дзе Вуса цалуецца з хвалямі Лошы,— Нёман вячысты выходзіць у свет* (А. Александровіч). Раздзяляльныя знакі прыпынку могуць быць адзіночныя і паўторныя. У якасці адзіночных ужываюцца ўсе раздзяляльныя знакі, а паўторных — толькі коска і кропка з коскай, якімі звычайна аддзяляюцца аднародныя члены ўскладненага сказа і аднатыпныя часткі складанага сказа. Адзіночныя знакі прыпынку ў адрозненне ад паўторных нярэдка сумяшчаюць раздзяляльную функцыю са спалучальнай або замяшчальнай. Раздзяляльна-спалучальным знакам прыпынку з'яўляецца працяжнік, калі ён не толькі аддзяляе асобныя словаформы, але і звязвае іх у адно цэлае: *цягнік Мінск — Масква, матч «Дынама» — «Спартак»*. Раздзяляльна-замяшчальнымі знакамі прыпынку выступаюць працяжнік і шматкроп'е, калі яны пры аддзяленні адной часткі сказа ад другой паказваюць на адсутныя кампаненты ў іх структуры: *У цёмным небе — карагоды сіняватых зорак* (М. Багдановіч); *Сонца... высока ў небе* (П. Трус). Выдзяляльныя знакі прыпынку служаць для выдзялення са структуры сказа асобных яго частак (адасобленых членаў, зваротаў, параўнальных зваротаў, пабочных і ўстаўных канструкцый, простай мовы), якія маюць дадатковае значэнне ў раскрыцці агульнай думкі. Да гэтых знакаў прыпынку адносяцца коска, працяжнік, коска з працяжнікам, дужкі і двукоссе; яны звычайна ўжываюцца парамі (ставяцца перад і за выдзеленай канструкцыяй): *Над лесам, выплыўшы з туману, стаяў месяц* (І. Пташнікаў); *Засвяціў, як цудоўны сон, лён шаўковым валакном* (Я. Купала); *Рыба — хоць ты плач! — на кручок не бралася* (ЛіМ); *На лузе,— а ён пачынаўся адразу за вёскай,— іскрылася і зіхацела раса* (М. Зарэцкі); *Плылі (я падлічыў) сто дзесяць хмар* (П. Панчанка); *Шафёр калгасны гукае: «Сядай на машыну, Рыгор»* (П. Панчанка). Калі кампаненты, што патрабуюць выдзялення, знаходзяцца не ў сярэдзіне, а ў пачатку ці ў канцы сказа, то замест выдзяляльнага знака прыпынку (коскі, працяжніка ці коскі з працяжнікам) на стыку самастойных сказаў ставіцца раздзяляльны знак прыпынку, які адпавядае зместу, граматычнай будове і інтанацыйнаму афармленню сказа: *Ноч. Цішыня. Нібы казачныя асілкі, стаяць магутныя дубы, аблітыя скупым святлом месяца* (В. Каваль); *Яна хвалюецца,— як і кожная маці* (В. Хомчанка). Дужкі і двукоссе заўсёды парныя: *Буслы над возерам замёрлі (нас ахапіла цішыня)* (П. Глебка); *«Праўда даражэй за золата»,— любіў гаварыць дзядзька* (К. Чорны). Адзін і той жа знак прыпынку можа адначасова выконваць і раздзяляльную і выдзяляльную функцыі. Так, у сказе *Скажы мне, дарога, хто ездзіць табою* (Я. Колас) коска, якая стаіць пасля назоўніка *дарога,* аддзяляе адну прэдыкатыўную частку ад другой і адначасова выдзяляе гэты назоўнік, таму што ён займае пазіцыю звароткa.

Усе знакі прыпынку ў сучаснай беларускай мове шматзначныя, маюць багатыя стылістычныя і эмацыянальна-экспрэсіўныя магчымасці, што спрыяе дакладнай перадачы на пісьме сэнсавых, граматычных і інтанацыйных асаблівасцей любога тэксту. Функцыянальная шматзначнасць знакаў прыпынку рэгламентавана правіламі, якія рэгулююць пастаноўку кожнага знака прыпынку ў пісьмовым тэксце. Правілы сучаснай пунктуацыі кадыфікаваны, дастаткова сістэматызаваны, маюць нарматыўны характар; яны адносна ўстойлівыя ў пісьмовай практыцы, аднолькавыя і абавязковыя для ўсіх, хто піша або чытае пісьмовы тэкст. Але гэта не значыць, што пунктуацыйная сістэма застылая і нязменная, бо яна пастаянна адлюстроўвае змены, якія адбываюцца і назапашваюцца ў мове, у яе структурна-семантычнай і інтанацыйнай арганізацыі. Яна даволі гнуткая, каб паспяхова задавальняць патрэбы пісьмовых зносін. Такая гнуткасць абумоўлена здольнасцю пунктуацыі да варыянтнасці ва ўжыванні знакаў прыпынку, якая адлюстроўвае патэнцыяльныя магчымасці рознага асэнсавання і пабудовы пісьмовага тэксту. Напрыклад, у сказе *У Баранавічах налучыўся кандуктар добры / ён згадзіўся давезці ў Вільню дзядзьку сходна* (Я. Колас) другая прэдыкатыўная частка ў залежнасці ад актуалізацыі свайго зместу можа даваць прычыннае абгрунтаванне першай часткі (тады ставіцца двукроп'е) і можа паказваць вынік, прычына якога змешчана ў першай частцы (тады ставіцца працяжнік). Безумоўна, такія варыянты з'яўляюцца вынікам не столькі факультатыўнасці, колькі кантэкстуаль-

на абумоўленай заканамернасці (кожнаму значэнню адпавядае свой знак прыпынку). Кожны знак прыпынку тады становіцца сродкам асаблівай выразнасці, калі ён трапна выкарыстаны, дакладна ўлічаны яго значэнне і ўласцівыя яму адметныя магчымасці. Аўтарская індывідуальнасць ва ўжыванні знакаў прыпынку павінна быць матываванай, каб не парушаць пунктуацыйную сістэму, а пашыраць і ўзбагачаць практыку яе выкарыстання.

*Літ.:* Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Мн., 1959; Клюсаў Г. Н., Юрэвіч А. Л. Сучасная беларуская пунктуацыя. Мн., 1972; Бурак Л. І. Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы. Мн., 1980; Яго ж. Пунктуацыя беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1982. *Л. І. Бурак.*

## ПЯТРОЎСКІ ЯН ДЗЯМ'ЯНАВІЧ



Беларускі элініст, перакладчык Я. Дз. Пятроўскі нарадзіўся 20 студзеня 1905 г. ў Слуцку. У 1929 г. скончыў Матуральныя курсы імя Пятра Скаргі ў Вільні і ў 1930 г. паступіў у аднагадовую тэалагічную Біблейную школу мястэчка Кларысаў (пад Варшавай). Апрача беларускай, рускай і польскай моў асвоіў старажытнагрэчаскую, англійскую і нямецкую. Доктар тэалогіі. З 1931 г. працаваў год пастарам у Варшаве, потым 4 гады ў Дзярэчыне. Выдаваў часопіс «Светач Хрыстовае навукі». У 1936 г. пераехаў у Варшаву, дзе працаваў пастарам. У 1939 г. з іншымі бежанцамі апынуўся ў Вільні, адкуль, паводле рашэння Віленскай савецка-германскай камісіі, у 1941 г. накіраваны цераз Аўстрыю ў Берлін. Там актыўна займаўся лінгвістычнай працай у Берлінскім аддзеле Беларускага камітэта самапомачы, па даручэнні якога рэдагаваў беларускі пераклад Новага Запавету, нямецка-беларускі слоўнік Васіля Камароўскага. У сакавіку 1945 г. пераехаў у г. Лінц (Аўстрыя), з 1953 г.— у ЗША.

Вынікам яго зацікаўленасці старажытнагрэчаскай філасофіяй сталі пераклады з грэчаскай на беларускую мову «Выбраных дыялогаў» Платона (т. 1,1953, уключае «Абарону Сакратаса», «Крытон», «Файдон»; т. 2, 1970 — «Сімпозіён», «Іён»; т. 3, 1973 — «Горгіяс»; т. 4, 1975 — «Пратагорас», «Гіпіяс вялікшы»; т. 5, 1976 — «Пармэнідэс», «Мэнон»; т. 6, 1981 — «Палітэя»). З 1973 г. гэтыя кнігі выдае «Беларускі дабрачынны адукацыйны фонд», заснаваны Я. Пятроўскім і яго жонкай Аліцыяй у г. Гэйнсвіл (штат Фларыда, ЗША).

Я. Дз. Пятроўскі — аўтар выдання «Мемуары: Стагоддзе ў рэтраспэкце», якое ахоплівае перыяд 1905—93 гг. (кн. 1—3, 1988—93). Ён склаў і выдаў анталогію ў 3 тамах «Лепшыя думкі чалавека» (1977—92), манаграфію «Старажытная грэцкая класіка» (1979, 1987), з англійскай мовы на беларускую пераклаў «Універсальную дэкларацыю правоў чалавека» (1975, 1993), «Тэалёгію грэцкіх дўманнікаў» В. Егэра (1980), з нямецкай на беларускую — «Унутраную хворму мовы» В. Гумбальта (1989).

Беларуская моўная стыхія перакладаў і навуковых твораў Пятроўскага даволі своеасаблівая. Ён прытрымліваецца нормаў беларускай мовы паводле граматыкі Б. Тарашкевіча. У яго тэкстах трапляюцца паланізмы (*няўхвытна* 'няўлоўна', *высокасць* 'вышыня'), русізмы (*рубашка* 'кашуля', *цвет* 'колер'). Часам выкарыстоўваюцца беларускія дыялектныя словы або словы, адметная форма якіх вызначана суб'ектыўна-разумовым шляхам: *тасаваньне* 'ажыццяўленне', *спасцярога* 'заўвага', *гаспадарства* 'дзяржава' і г. д.

Складзены Я. Пятроўскім «Ангельска-беларускі слоўнік» (1946, Аўстрыя; 1978, ЗША) уключае каля 4 тыс. слоў. У ім ёсць і беларуска-англійская частка. Гэта выданне мае найперш практычнае прызначэнне. Аўтар дае англійскі алфавіт, гранічна спрошчаныя правілы транскрыпцыі, што тлумачыцца тэхнічнымі прычынамі: усе англійскія гукі транскрыбіруюцца адпаведнымі беларускімі літарамі, акрамя *TH* (перадаецца грэчаскай літарай ϴ). Для перадачы англійскага выбухнога *G* у слоўніку выкарыстоўваецца ґ (існавала ў беларускай граматыцы да рэформы 1933 г.). Націск перадаецца коскай пасля націскнога склада, тыльда — праз двукоссе. Даецца і спіс граматычных памет. Значэнні звычайна тлумачацца адным, двума, зрэдку трыма словамі: length [ленгϴ] даўжыня; main [мэйн] галоўны; oven [овн] печ; labor [ле,йбор] праца, работа; lad [лед] юнак, дзяцюк, малады чалавек; leader [лідер] кіраўнік, правадыр, старшыня, галава. Семантыка шматзначных слоў раскрываецца больш-менш поўна, адно значэнне ад другога аддзяляецца кропкай з коскай: engine [э,нджін] машына, прылада; інструмент; key [кій] узьбярэжная; ключ, засаўка; клін; light [ляйт] сьвятло; зіяньне; зіхаценьне; сьветлы, ясны; лёгкі.

Беларуска-англійскі слоўнік прызначаны для магчымых зносін карэннага насельніцтва англамоўных краін з беларускай эміграцыяй і перакладу беларускіх тэкстаў на англійскую мову. Правілы перакладу беларускіх слоў на англійскую мову практычна не адрозніваюцца ад правіл перакладу англійскіх слоў на беларускую мову ў першай частцы выдання. Гэтыя правілы з пра-




В. Гумбальт. «Унутраная хворма мовы» (пераклад Я. Пятроўскага). Гэйнсвіл. ЗША. 1989.




Я. Пятроўскі. «Клясычны грэцка-беларускі слоўнік». Ч. 1-я (вокладка). 1983.

ктычных меркаванняў значна спрошчаныя. Граматычныя паметы адсутнічаюць. Пераклад не ілюструецца фразамі. Беларускае слова тлумачыцца адным, двума, радзей трыма англійскімі адпаведнікамі: вецер wind; жоўты yellow; колас ear; аграбіць to rob, to deprive; гарэх nut, walnut; класьці to put, to lay; гнаць to drive, to press, to urge.

Складзены Я. Пятроўскім двухтомны «Клясычны грэцка-беларускі слоўнік» (1983—85) уключае каля 16 500 слоў. Гэты першы перакладны грэчаска-беларускі слоўнік — значны ўклад у беларускую эліністыку. Слоўнік мае аўтарскую прадмову (тлумачыць сутнасць выдання), артыкул «Ідэі святла і цеплыні» (пра гармонію шматмоўнага свету). Аўтар характарызуе пэўныя асаблівасці слова- і гукаўтварэння старажытнагрэчаскай мовы. Па сутнасці, слоўнік адыгрывае ролю падручніка старажытнагрэчаскай мовы для тых, хто сутыкаецца з ёю ўпершыню. Слова тлумачыцца сінанімічным радам. Граматычныя паметы даюцца нерэгулярна. Прыводзяцца асноўныя граматычныя формы: αoгδoσ песьняр, лірнік; *г*Ⓗμα, *αгoς*, *τoo* крок, рух. Часам даюцца паралелі з дыялектаў: хорα (дар[ыйск] хорη). Дэфініцыі ўяўляюць сабой звычайна сінанімічны рад: σπσυδαστηs, oυ, o староньнік, прыхільнік, прыяцель, аднадумец. Семантычныя адносіны аддзяляюцца кропкай з коскай: τεμυω кроіць (нажом), парэзацца; раскроіць дзьве паловы; адкроіць; распадзяліць; ατoμos выдзеліць; абрэзаць, абсекчы, абсякаць. Дэталёва распрацоўваецца семантыка шматзначных слоў.

*Літ.:* Пранчак Л. Ян Пятроўскі: «Уся мая праца — ёсць толькі пачаткам» // ЛіМ. 1992. 4 вер.; Чыгрын С. Ян Пятроўскі — літаратар, перакладчык, выдавец // Голас Радзімы. 1993. 4 сак.

*В. М. Мартыненка, У. М. Свяжынскі.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скарапіс 15 ст

Скарапіс 16 ст.

Скарапіс 17 ст.

Ф. Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Не чакайце, што буду хваліцца*
*перад іншымі мовай маёй.*
*Хіба хваліцца з лесу крыніца,*
*што грымотней яна за прыбой?*
*Той, хто любіць папраўдзе, ён ціха*
*слова роднае ў сэрцы спяліць,*
*беражэ ад пагарднага ліха:*
*калі слову, то й сэрцу баліць...*

Еўдакія Лось



***Р** — васемнаццатая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Р («рцы»), утворанай на аснове грэка-візантыйскай устаўнай Р («ро»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычны гук* р (рада, рыба). *Мела таксама лічбавае значэнне «сто». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скарапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. Пры ўжыванні ў якасці вынасной пісалася гарызантальна над радком, служачы такім чынам цітлападобным пакрыццём для слова* (ка та, мі). *У 16 ст. акрамя рукапіснай набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваццa як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае санорны дрыжачы пярэднеязычны цвёрды і зацвярдзелы гук* р (раса, рыжы, рэха, сарока). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (РТС), як умоўнае скарачэнне слоў «родны (склон)»* (р. *вады*), *«рака»* (р. *Днепр*), *«рубель»* (25 р.). *Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «семнаццаты» (група* «Р»), *пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (квадрат № 6* р).

*А. М. Булыка.*

## РАДЫЁ І МОВА

Радыёвяшчанне як сродак масавай інфармацыі выкарыстоўвае мову ў яе вуснай форме і з'яўляецца унікальным семіятычным відам моўнай дзейнасці, які ўтвараецца шляхам спалучэння розных гукавых сістэм: мовы, музыкі, гукавых сігналаў. Па сваёй прыродзе мова радыё вельмі блізкая да публічнай, таму ў ёй прымяняюцца правілы і прыёмы, выпрацаваныя вопытам красамоўства. Аднак прамоўца на радыё пазбаўлены магчымасці скарыстоўваць міміку і жэсты, таму ўсе рэсурсы яго голасу заключаны ў тоне, у разнастайнасці меладычных і рытмічных малюнкаў. Пры адпрацаваных спецыяльных навыках выканаўца (дыктар, карэспандэнт) павінен ствараць меладычную хвалю мовы, дасягаючы гармоніі паміж часткамі і цэлым, разнастайнасці камбінацый сілы і працягласці маўлення. Словы вымаўляюцца пры гэтым асобнымі групамі — так званымі мова-тактамі, паміж тактамі ўтвараюцца паўзы. Уздзеянне мовы радыё ўзмацняецца музычным фонам.

Адкрытая ў 1925 г. першая на Беларусі радыёстанцыя пачала весці свае перадачы на беларускай мове. Аб'ектыўны паказчык развіцця мовы — узровень яе функцыянальнай дыферэнцыяцыі. Радыё ўзяло на сябе выкананне ўласцівых мове грамадскіх функцый, а значыць, і прыстасаванне самой мовы да выканання гэтых разнастайных функцый. Яно асвойвала новыя, раней незнаёмыя бытавой мове пласты лексікі, удасканальвала ўнутраную арганізацыю мовы, выпрацоўвала грамадска ўсвядомленыя і практычна неабходныя формы класіфікацыі моўнага матэрыялу, узмацняла сувязі розных форм мовы з патрэбамі практыкі. Генетычная блізкасць беларускай і рускай моў, шырокае ўжыванне рускай стваралі спецыфічныя цяжкасці пры перадачы на беларускай мове многіх паняццяў і тэрмінаў. Засваенне іх беларускай мовай натыкалася на псіхалагічныя бар'еры непрызнання нязвыклых форм, тым больш, што ў многіх выпадках пераклад зводзіўся да прымітыўнай калькі. Такая лінгвістычная неахайнасць захоўваецца да гэтага часу, таму вызваляцца ад яе азначае клапаціцца пра чысціню мовы, яе сэнсавую дакладнасць і мастацкую выразнасць.

Першымі дыктарамі Беларускага радыё былі Л. Абадоўскі, Г. Альфер, Л. Бацвіннік, Я. Бобрык, А. Война, Т. Зіміёнка, Н. Кабаліна (Фёдарава), Л. Кардашэнка, В. Матус, Я. Туміловіч, М. Харламаў, Л. Шклоўскі, А. і У. Юрэвічы. У канцы 1920-х гадоў была створана трупа мастацкіх чытальнікаў з драматычных акцёраў (Б. Кудраўцаў, У. Крыловіч, Л. Ржэцкая, Л. Рахленка, С. Бірыла, Б. Платонаў, Д. Курдзін, А. Грахольскі, С. Станюта, Г. Глебаў, В. Галіна, Р. Палонская, М. Звездачотаў), рэжысёрамі былі В. Галаўчынер, Б. Дольскі, М. Кельбер, С. і Я. Скальскія, В. Яворскі.

Прызнанымі майстрамі беларускага слова сталі дыктары У. Баклейчаў, Т. Бастун, Л. Валодзін, С. Гілеўская, В. Дзягілеў, І. Курган, Л. Пількевіч, А. Свістуновіч, Л. Стасевіч, Г. Сядзельнікава, М. Чырык, У. Шаліхін, С. Шушакова, У. Яркоў, Г. Яроменка, акцёры В. Тарасаў, П. Дубашынскі, У. Рагаўцоў, Ю. Авяр'янаў, М. Захарэвіч, Л. Давідовіч, радыёрэжысёры літаратурна-драматычнага вяшчання В. Анісенка, Т. Аляксеева, С. Гурыч, П. Данілаў, В. Краўцоў.

У 1930-я гады на радыё акрамя беларускага гучала рускае, яўрэйскае, польскае, літоўскае, латышскае слова ў інфармацыйных, грамадска-палітычных і літаратурна-драматычных перадачах (у выкананні акцёраў рускага, польскага і яўрэйскага тэатраў). Арганізаваны на пачатку 1930-х гадоў радыётэатр актывізаваў карыстанне беларускім словам у музычных перадачах (арыі з опер, рамансы, оперы). Радыёстанцыя «Савецкая Беларусь» у 1942—44 гг. у Маскве вяшчала на тэрыторыю акупіраванай Беларусі на беларускай мове да 7 гадзін у суткі (дыктары Л. Бацвіннік і У. Юрэвіч).

Мова радыё ўлічвае псіхалагічную характарыстыку канкрэтных груп слу-

хачоў, да якіх мэтанакіравана звернута перадача («Арляняты», «Сельская раніца», «Радыёфакт» і іншыя). Школьны радыёклуб «Жывое слова» (заснаваны ў 1963 г., старшыня У. М. Юрэвіч) далучае дзяцей да беларускай мовы, знаёміць іх з этымалогіяй беларускіх слоў, з законамі словаўтварэння і анамастыкі. Арыентацыя на пэўную сацыяльную групу вымагае асаблівай манеры гаварэння, прагматычнага прынцыпу стылявой дыферэнцыяцыі. Існуюць тры эмацыянальна афарбаваныя групы тэкстаў. Заахвочвальныя чытаюцца з падтрымкай, адабрэннем, пахвалой, падаюцца дыктарам як «свае», якія і дыктар ацэньвае станоўча. Негатыўныя нешта ганьбяць, абняслаўліваюць, перадаюцца як чужыя, негатыўныя. Нейтральныя тэксты падкрэслена інфарматыўныя, пазнавальна-папулярныя, не «свае» і не «чужыя». Нейтральнае чытанне іх можа ўзмацняць адмоўную ці станоўчую ацэнку паведамлення, абуджаць цікавасць.

Тэхнічныя ўмовы перадачы рэгламентуюць сілу голасу, выразнасць радыёмовы. Радыёкаментатар мае справу і з літаратурным, і з адрэдагаваным тэкстамі (іх заганы — перанасычанасць кніжнай лексікай, празмерная вобразнасць, аманімія, немілагучныя спалучэнні, ускладнены сінтаксіс), і з экспромтам, што вымагае ад яго ўмення імгненна пераўвасабляцца, валодаць дыханнем, артыкуляцыяй. З прыроднымі якасцямі радыё (акустычнасцю, сінхроннасцю, усеагульнасцю гучання, адсутнасцю бачнай аўдыторыі) звязаны спецыфіка ўспрыняцця слова на слых, немагчымасць вярнуцца да праслуханага ці перапытаць незразумелае.

Мова радыё змяшчае ў сабе фрагменты ўсіх іншых відаў вуснай моўнай дзейнасці: вусны дыялог, фальклор, лісты да рэдакцыі, навуковую і мастацкую літаратуру, тэатральныя пастаноўкі і іншае. Асаблівае значэнне для радыё мае прынцып дыялога. Любая размова на радыё — заўсёды сапраўдны ці ўяўны грамадскі дыялог, нават пры маналогу вядучага слухач імітуе дыялогавае гучанне.

Разам з тэатрам радыё з'яўляецца ўзорам літаратурнага вымаўлення, прапагандыстам чысціні мовы. Але часам і ў артыстаў, і ў дыктараў яно супярэчыць устаноўленым нормам.

Сярод самых пашыраных выпадкаў парушэння норм вымаўлення на беларускім радыё наступныя.

Неўласцівы беларускай мове *ч* мяккі гучыць у словах накшталт *ні*[ч'о]*га, па*[ч'а]*ў, рас*[ч'і]*ніў*.

Парушаецца нацыянальнае дзеканне і цеканне: *дьверы* 'дзверы', *люді* 'людзі', *лятіть* 'ляціць', *бутте* 'будзьце', *у 1960 годе* 'годзе'.

Замест афрыкаты *дж (дж)* — акрамя рэдкіх выпадкаў гукаспалучэння *д+ж* тыпу *д* прыставачнага перад каранёвым *ж* (*паджары, паджынацца*) — часам па радыё вымаўляюць *д+ж: ха*(д+ж)*у* — ха(dź)у, *наро*(д+ж)*аны* — наро(дж)аны, *на пася*(д+ж)*энні* — на пася(дж)энні.

Зрэдку ўжываюць выбухны *г* замест фрыкатыўнага — *ша*(г)*нуў* — шагнуў; *э* замест *о* ў першай асобе дзеясловаў множнага ліку — *спадзя*[йе]*мся* — спадзяёмся, *збя*[э́]*м* — збяром і ў лічэбніку *чац*(в'е́)*рты* — чацвёрты; суфікс *-іва-* замест *-ва-* ў дзеясловах тыпу *вынюхіваючы* — вынюхваючы, *паблісківалі* — паблісквалі.

Часам неадэкватная асіміляцыі зычных *з* і *с* перад мяккімі зычнымі і *j* (йотам): [зв']*інець* замест '[з'в']інець', *пе*[сн']*я* замест 'пе[с'н']я', [зйа]*віліся* замест '[з'й'а]віліся'.

У формах прошлага часу некаторых дзеясловаў сустракаецца разнабой у націску: *аддáлі* — аддалі́, *дáлі* — далі́, *паднялі* — паднялі́, *пачáлі* — пачалі́, *прынялі* — прынялі́, *узялі* — узялі́, *узяліся* — узялі́ся, *налíла* — наліла́, *палíла* — паліла́. Часам націск у дзеясловах пераносяць з асновы на канчатак: *сабраліся* — сабралі́ся. Парушаецца націск у прыметніках і дзеепрыметніках: *зáліты* — залі́ты, *мáлая* — малáя, *прыняты* — прыня́ты.

На памылковае вымаўленне ўплываюць тэкставыя парушэнні марфалагічных, лексічных і сінтаксічных норм. Гэта няправільнае ўжыванне канчатка: *канцэрт*[у] — канцэрта, *два ачк*[а] — два ачкі; націскных галосных—*а* замест *о*: *над*[á]*йваюць*—надойваюць, *павывар*[á]*чваў* — павыварочваў; *о* замест *а*: *пл*[ó]*цім* — плацім; *о* замест *э*: *с*[ц'ó]*рлася* — сцерлася, *па*[ц'ó]*рлася* — пацерлася, *пад*[ó]*швы* — падэшвы.

Побач з фанетычнай, лексічнай і сінтаксічнай вылучаецца інтанацыйная ўнармаванасць радыётэкстаў. Падбор сродкаў на фанетыка-фаналагічным і інтанацыйным узроўнях абумоўлівае эфектыўнасць маўлення. Пры гэтым інтанацыя — такі спецыфічны сродак моўнага ўздзеяння, які набліжаецца па сваёй сутнасці да паралінгвістычных сродкаў: жэстыкуляцыі, аранжыроўкі і г. д. Інтанацыйныя стандарты асабліва важныя, бо меладычнымі сродкамі выкрываецца сэнсавая і эмацыянальная структура выказвання, падкрэсліваецца сацыяльна значная інфармацыя.

Успрыманне суцэльнасці тэксту абцяжарваецца збыткоўнымі паўзамі ці наадварот — адсутнасцю запоўненых паўз, плаўных пераходаў з аднаго фонаабзаца на другі. І тэкст тады становіцца серыяй незалежных, самастойных, мала звязаных урыўкаў.

Пры недастатковай меладычнай арганізацыі сінтагмаў і фраз узнікаюць паўзы, якія падзяляюць моўную плынь неадпаведна сэнсу выказвання. Памылковаму ўспрыманню фраз часам садзейнічае іх кепскае гукавое афармленне. Так, у фразе *Быкаў і Твардоўскі ў сваёй маральнасці вельмі блізкія. А маральнасць ёсць праўда,— сказаў Шукшын* пры адсутнасці паўзы паміж злучнікамі і назоўнікам і інтанацыйнага проціпастаўлення прагучала *амаральнасць*. Ці ў фразе *Гэта доктар філалагічных навук Павел Дзюбайла, рэдактар і аўтар «Уступу»* апошняе слова недарэчна ўспрынялося як *у ступу*.

Пры маўленні з аднастайным меладычным гучаннем сінтагмаў і фраз змяншаецца іх камунікатыўнасць і экспрэсіўнасць. Становіцца незразумелым, пытаецца чалавек ці адказвае на пытанні, што ён адчувае, абыякавы ён ці залішне эмацыянальны.

Для перадачы самых моцных пачуццяў існуе шэраг рытміка-меладычных асаблівасцей беларускіх моўных сродкаў, у прыватнасці падаўжэнне, узмацненне, расцягванне гукаў: *у наш час — ра-а-м-антыкі!* (А. Дзятлаў); *А чаму ж ён калі цябе смалой не напо-і-і-іць!* (А. Мальдзіс).

Беларуская інтанацыя вылучаецца найперш павольным тэмпам маўлення. У ім адсутнічае прыкметная якасная рэдукцыя галосных ненаціскных складоў. Гэта надае словам і фразам своеасаблівае рытмічнае гучанне. У адрозненне ад рускай беларуская моўная інтанацыя (гл. **Інтанацыя**) арыентуецца на акцэнтнае выдзяленне і захаванасць выразнасці кожнага слова. Стабільны тон маўлення без значных шматступенных зрухаў частаты асноўнага тону (самай нізкай складаючай у спектры гуку) у беларускай фразе больш нізкі і больш вузкі па дыяпазоне, чым у рускай.

Для захавання важнай у беларускай фанетыцы пэўнай даўжыні кожнага склада ў практычнай радыёмове ўжываюць дадатковы (пабочны) націск (гл. **Націск**) у працяглых словах: *бѐзаварыйнасць, нѐкапіталістычны, нѐзапланаваны* і г. д.

Галоўную інфармацыю ў сказе цяжка вызначыць пры аднастайным тэмпе, калі ўсе часткі складаных сказаў вымаўляюцца з аднолькавай хуткасцю. Пры перадачы па радыё кароткіх паведамленняў і аб'яў, у якіх маюць значэнне амаль што ўсе словы, хуткае вымаўленне недапушчальнае. Наадварот, павольнае вымаўленне пабочных і ўстаўных канструкцый неправамерна надае ім больш важны сэнс. Пры хуткім тэмпе маўлення ў дыктараў радыё назіраецца рэдукцыя ненаціскных і змяненне якасці націскных галосных. Пасля цвёрдых зычных галосны [а] рэдукуецца: [п'і]*тна*-[ц:ъ]*ць*; мяняецца якасць перадназіскнога галоснага: [къ]*рыта* — карыта. Гук [а] пасля *ч* гучыць як [э]: *па*[чэ]*лі* — пачалі, [чэ]*ставаць* — частаваць, [чэ]*му* — чаму, *а* пасля мяккіх зычных замяняецца на [э] і [’і]: [П'э]*трок* — Пятрок, *за*[с'п'і]*ваў* — заспяваў, [дзе'э]*дуля* — дзядуля, *г*[н'э]*здо* — гняздо, *у*[з'і]*ла* — узяла, [п'і]*дзесят* — пяцьдзесят,

[йэ]*му* — яму, [йэ]*ны* — яны, [йэ]*на* — яна.

Парушаюцца арфаэпічныя нормы пры іканні: [Г'інац'] — Генадзь, *даку*[м'і]*нтальная* — дакументальная, [дз'ів'і]*тнаццаць* — дзевятнаццаць, [б'і]*ларуская* — беларуская, *аб'*[йі]*вілі* — аб'явілі, [н'і]*далёка* — недалёка, [н'і]*дахопы* — недахопы, [н'і]*было* — не было, [н'і] *трэба* — не трэба, *с*[п'і]*ктакль* — спектакль, *па*[сп'і]*хова* — пасляхова.

Павялічваецца колькасць слабанаціскных слоў. Пры хуткім вымаўленні дэфармуюцца і зычныя гукі: спрашчаюцца групы канцавых зычных: *асабліва*[с'] — асаблівасць, *абыякава*[с'] — абыякавасць, *спекта*[кал'] — спектакль; выпадае інтэрвакальнае *г: Маякоўск*[аа] — Маякоўскага, *тако*[а] — такога; асімілятыўна памякчаюцца зычныя перад заднеязычнымі: [з'г']*інуў* — згінуў, *ра*[с'к']*інуліся* — раскінуліся, *мікра*[с'х']*ем* — мікрасхем.

Станаўленне беларускага літаратурнага вымаўлення цесна звязана з гісторыяй нацыянальнага пісьменства, тэатра, школы, з правапіснымі нормамі.

На хвалі адраджэння беларускай нацыянальнай культуры слова на радыё з'яўляецца тым каштоўным сродкам, які нясе ў самыя далёкія куткі рэспублікі высокія ўзоры карыстання літаратурнай нацыянальнай мовай усё больш шырокім колам людзей.

Радыё ўвесь час у пошуках такіх талентаў, якія не былі б рабамі мовы, а толькі яе гаспадарамі, здольнымі адкрываць незлічоныя багацці ў невычэрпным акіяне слоў, засвойваць душой народнасць мовы, валодаць тонкім яе адчуваннем. Але для гэтага патрэбны свабода мыслення і высокая эмацыянальная культура, такое майстэрства валодання мовай, калі думка і пачуццё паўстаюць перад слухачом у іх глыбінным адзінстве. Слова, вымаўленае пры ўключаным мікрафоне, патрабуе абыходзіцца з ім адказна і сумленна.

Да 1992 г. Беларускае радыё фарміравала сваю першую праграму так, што на 50 % трансліравала перадачы Усесаюзнага радыё. З 1.1.1992 г. яно цалкам перайшло на ўласнае вяшчанне, што дазволіла максімальна скарыстоўваць беларускую мову.

*Літ.:* Крамко І. І. Некалькі заўваг аб культуры мовы беларускага радыё // Аб некаторых асаблівасцях беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1965; Дыкцыя і арфаэпія: Метад. рэкамендацыі / Склад. А. А. Каляда. Мн., 1977; Садоўскі П. В. Беларускае слова ў эфіры // Культура мовы журналіста. Мн., 1984. Вып. 2; Выгонная Л. Ц. Да спецыфікі мовы радыё // Бел. лінгвістыка. Мн., 1990. Вып. 37; Яе ж. Інтанацыя. Націск. Арфаэпія. Мн., 1991.

*Л. Ц. Выгонная, Я. Р. Радкевіч, У. М. Юрэвіч.*

## РАМАНАЎ ЕЎДАКІМ РАМАНАВІЧ



Е. Р. Раманаў нарадзіўся 11 верасня 1855 г. ў мястэчку Нова-Беліца Гомельскага павета Магілёўскай губерні (цяпер у межах Гомеля). Скончыў Гомельскую прагімназію (1870), курсы настаўнікаў рускай мовы і гісторыі (1872). Працаваў настаўнікам (1872—86), інспектарам народных вучылішч Віцебскай, Гродзенскай і Магілёўскай губерняў (1886—1906), членам Часовай камісіі па ўладкаванні Віленскай публічнай бібліятэкі і музея (1906—16). У 1897—1903 гг. рэдактар неафіцыйнага аддзела газеты «Могилёвские губернские ведомости». З 1910 г. загадчык секцыі этнаграфіі і археалогіі Паўночна-Заходняга аддзялення Рускага геаграфічнага таварыства. З 1917 г. жыў у Стаўрапалі. Памёр 20 студзеня 1922 г.

У гісторыю беларускай культуры Е. Р. Раманаў увайшоў як выдатны этнограф, фалькларыст, гісторык, археолаг, антраполаг, публіцыст, выдавец самастойна сабранага шматтомнага збору беларускай вуснай народнай творчасці («Беларускі зборнік». Вып. 1—9, 1886—1912), публікатар пісьмовых помнікаў, арганізатар музеяў і выставак. У яго збіральніцкай і даследчай дзейнасці важнае месца займала і мованазнаўчая тэматыка. На жаль, не ўсе сабраныя ім моўныя матэрыялы і завершаныя навуковыя даследаванні былі апублікаваны, не ўсе нават захаваліся ў рукапісах (вельмі багаты архіў вучонага пасля яго смерці не быў своечасова вывезены і загінуў у Стаўрапалі). Аднак і тыя, што дайшлі да нас, даюць падставы гаварыць пра Е. Р. Раманава як пра здольнага лінгвіста з шырокім колам навуковых інтарэсаў.

Запісваючы ў розных мясцовасцях творы беларускай вуснай народнай творчасці, Е. Р. Раманаў звяртаў увагу на іх лексічныя і граматычныя асаблівасці. Ужо ў 1877 годзе ён паведаміў Расійскай Акадэміі навук аб тым, што ім сабрана 2000 беларускіх слоў, з якіх зроблена «Спроба беларускага слоўніка», а ў якасці ўводзін да яго — «Кароткая беларуская граматыка». Акадэмія, разгледзеўшы прысланую ёй частку на літару А, прапанавала Е. Р. Раманаву аформіць свой слоўнік як дапаўненне да слоўніка І. І. Насовіча. На працягу наступных пяці гадоў Е. Р. Раманаў збіраў не зафіксаваныя І. І. Насовічам словы на тэрыторыі Магілёўшчыны і, відаць, іншых мясцін Беларусі, лексікаграфічна апрацоўваў іх. У пісьме да Я. К. Грота ад 31 жніўня 1884 г. ён, гаворачы аб плане выдання задуманага «Беларускага зборніка», паведамляў, што зместам 4-га выпуску будзе дапаўненне да слоўніка І. І. Насовіча — 7000 беларускіх слоў, часткова новых, часткова няпоўна вытлумачаных І. І. Насовічам, а 5-ы выпуск уключыць у сябе беларускую граматыку, загадкі і прыказкі. Аднак першапачатковы намер потым быў аўтарам зменены: у 4-ы выпуск увайшлі міфалагічныя і бытавыя казкі, а ў 5-ы — замовы, апокрыфы і духоўныя вершы.

Е. Р. Раманаў шмат займаўся вывучэннем умоўных гаворак (арго), апублікаваў артыкулы пра ўмоўную гаворку дрыбінскіх шапавалаў (1890, 1900) і ўмоўную гаворку жабракоў Магілёўскай губерні (1890). Пазней сабраныя ім і іншымі даследчыкамі лексічныя матэрыялы па ўмоўных гаворках усходніх славян ён абагульніў у працы «Спроба слоўніка ўмоўных гаворак Беларусі: З паралелямі велікарускімі, маларускімі і польскімі», якая і склала поўнасцю 9-ы выпуск «Беларускага зборніка» (1912). Ва ўступе да гэтай працы даецца агляд гісторыі вывучэння ўмоўных гаворак і ўжо апублікаваных слоўнікаў і матэрыялаў да іх, уласныя меркаванні аб паходжанні гэтых гаворак наогул і іх лексікі ў прыватнасці. У слоўнікавай частцы словы ўмоўных гаворак падаюцца як перакладныя эквіваленты да рэестравых слоў рускай літаратурнай мовы, якіх узята 1030. Яны падзелены на 14 тэматычных і граматычных груп: з'явы і прадметы прыроды (58); духоўныя прадметы (27); чалавек (155); ежа і напіткі (52); адзенне (44); жыллё, начынне, прылады, збруя (107); жывёлы, птушкі, рыбы, насякомыя (55); расліны (60); дзеянні (215), уласцівасці і якасці (96); лікі і меры (62); займеннікі (28); прыслоўі (57); фразы на ўмоўных гаворках (14). «Спроба слоўніка...» была на той час самай грунтоўнай лексікаграфічнай працай аб умоўных гаворках на тэрыторыі ўсходніх і часткова заходніх славян і атрымала высокую ацэнку спецыялістаў.

Паралельна з запісам фальклорных матэрыялаў у розных паветах Магілёўшчыны і Віцебшчыны Е. Р. Рама-

наў вывучаў асаблівасці гаворак на гэтых тэрыторыях. Уласныя назіранні ён выклаў у радзе публікацый. Першую спробу апісаць гаворкі Магілёўскай губерні на аснове звестак, сабраных падчас экспедыцыі 1886 г., Раманаў зрабіў у прадмове да 3-га выпуску «Беларускага зборніка» (1887). Некаторыя звесткі па лексіцы, марфалогіі, сінтаксісе і акцэнталогіі гэтых гаворак былі ім апублікаваны ў 1897 г. як адказы на пункты «Праграмы для збірання асаблівасцей гаворак беларускай мовы», складзенай Я. Ф. Карскім. Новыя факты, назапашаныя ў час 5 наступных экспедыцый, былі часткова выкарыстаны ў публікацыі «Матэрыялы для вывучэння гаворак Магілёўскай губерні» (1902). Падагульненнем вынікаў усяго папярэдняга вывучэння гаворак Магілёўшчыны з'явілася праца «Гаворкі Магілёўскай губерні», якую Раманаў меркаваў выдаць у якасці 10-га выпуску «Беларускага зборніка» (напісана ў 1918, у перакладзе на беларускую мову апублікавана Інбелкультам толькі ў 1928 г.). Свае назіранні над гаворкамі Віцебскай губерні даследчык выклаў у «Матэрыялах па гістарычнай тапаграфіі Віцебскай губерні. Павет Веліжскі» (1898). У гэтых працах аўтар на аснове фанетычных, граматычных і лексічных асаблівасцей дае класіфікацыю гаворак Магілёўскай і Віцебскай губерняў, якая не поўнасцю адпавядае сучасным класіфікацыям, аднак на той час была вельмі каштоўнай.

Важнай крыніцай высвятлення тэрыторыі першапачатковага рассялення плямён, іх пазнейшых геаграфічных перамяшчэнняў, фарміравання народнасцей і г. д. Е. Р. Раманаў лічыў тапаніміку (у шырокім разуменні гэтага тэрміна), якою ён займаўся з 1866 г. адначасова па дзвюх губернях — Віцебскай і Магілёўскай. На жаль, большасць сабраных ім матэрыялаў загінула. Убачылі свет толькі тыя, якія адносіліся да Веліжскага павета Віцебскай губерні. Яны выкладзены і прааналізаваны ў працы «Агульны нарыс Віцебскай губерні. Павет Веліжскі» (1898). У гэтым даследаванні Е. Р. Раманаў зафіксаваў асобна па валасцях усе тагачасныя і вядомыя па розных пісьмовых і рукапісных помніках назвы водных аб'ектаў (рэчкі, ручаі, азёры, крыніцы, мачулішчы, сажалкі, балоты — усяго 630), аб'ектаў сушы (горы, узгоркі, курганы, камяні, лугі, сенажаці, лясы, дубровы, зараснікі, пусткі, палі, даліны, яры, астравы, могілкі, масты — усяго 496) і населеных пунктаў (усяго 1282). Супастаўляючы тагачасныя назвы з зафіксаванымі ў пісьмовых помніках, аўтар устанаўлівае, калі некаторыя з іх узніклі, паасобныя — перасталі існаваць, якія з цягам часу змяніліся часткова або былі заменены зусім новымі. Даецца таксама класіфікацыя назваў водных аб'ектаў, аб'ектаў сушы і населеных пунктаў паводле прыкмет іх узнікнення. На аснове аналізу тапонімаў па іх паходжанні аўтар робіць вывады адносна гісторыі засялення тэрыторыі Веліжскага павета і этнічнага складу яе насельнікаў у розныя гістарычныя эпохі.

Е. Р. Раманаў цікавіўся побытам, моваи і вуснай народнай творчасцю розных народнасцей, што пражывалі на тэрыторыі Беларусі. У справаздачы кіраўніцтву Рускага геаграфічнага таварыства аб сваіх навуковых занятках за 1891 г. ён пісаў, што ім сабрана больш за 1500 цыганскіх слоў, прасцейшыя формы скланенняў і спражэнняў. На жаль, у сувязі з першай імперыялістычнай вайной праца не была апублікавана і потым прапала.

Вынікам уважлівага вывучэння тагачаснай лінгвістычнай літаратуры і абагульнення свайго педагагічнага вопыту з'явілася стварэнне Е. Р. Раманавым падручніка па рускай мове для паветовых вучылішчаў і першага класа сярэдніх навучальных устаноў. Ён выйшаў у 1881 г. ў Вільні пад назвай «Падручнік рускай граматыкі. Вып. 1. Этымалогія» і змяшчаў у сабе кароткія звесткі па фанетыцы, марфалогіі і арфаграфіі рускай мовы. Характэрна, што ў ім да некаторых рускіх граматычных форм для параўнання прыведзены паралелі з жывой беларускай мовы. «Падручнік рускай граматыкі» Е. Р. Раманава добра зарэкамендаваў сябе на практыцы, сведчаннем чаго з'явілася некалькі яго перавыданняў: у Маскве (1885), Гродне (1895), Магілёве (1904). «Кароткая этымалогія царкоўнаславянскай мовы», якая з'яўлялася дадаткам да трэцяга выдання падручніка, у 1895 г. была выдадзена ў Гродне асобна.

Вялікая заслуга Е. Р. Раманава ў выданні пісьмовых помнікаў. Так, ён упершыню апублікаваў са сваімі прадмовамі і навуковымі каментарыямі «Грамату Стэфанія Баторыя 1 сакавіка 1581, якую далі Васілю Няміру як пацвярджэнне праў на яго валоданне невялікімі сёламі Галавенчыцы, Цёплае і Любаны» (1900), «Зборнік беларускіх замоў пачатку XIX стагоддзя» (1901), «Апісанне Крычаўскага графства 1786 года» Андрэя Меера (1901) і некаторыя іншыя. Е. Р. Раманаў усё жыццё прысвяціў збіранню і даследаванню матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа, яго мовы, на гэтай ніве працаваў нястомна і самааддана. Творчая спадчына яго надзвычай багатая і каштоўная.

*Літ.:* Бандарчык В. К. Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мн., 1961; Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навук. дзейнасці. Мн., 1985.

*І. К. Германовіч.*

## РАМАНОВІЧ ЯЎГЕНІЯ МІХАЙЛАЎНА

Беларускі мовазнавец Я. М. Рамановіч нарадзілася 6 ліпеня 1922 г. ў в. Дараганава Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Кандыдат філалагічных навук (1954). У 1948 г. скончыла БДУ. З 1952 г. навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН Беларусі.

Я. М. Рамановіч аўтар прац па беларускай дыялекталогіі, гісторыі беларускай мовы, сучаснай беларускай літаратурнай мове, бібліяграфіі беларускага мовазнаўства. За сааўтарства ў працах па беларускай лінгвагеаграфіі «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Нарысы па беларускай дыялекталогіі» (1964), «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (1968—69) атрымала Дзяржаўную прэмію СССР 1971 г. Шэраг артыкулаў і кандыдацкую дысертацыю Я. М. Рамановіч прысвяціла аналізу гаворак Уздзенскага раёна Мінскай вобласці. У некаторых працах даследчыцы даецца акцэнталагічная характарыстыка розных катэгорый назоўнікаў у беларускіх гаворках: артыкулы «Асаблівасці націску ў назоўніках жаночага роду на *-к(а)* у беларускай мове» (Бел. лінгвістыка. Вып. 1. Мн., 1972), «Некаторыя акцэнталагічныя адрозненні ў сучасных беларускіх гаворках» (разам з А. І. Чабярук; Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1966. № 3), «Пытанне акцэнтуацыі назоўнікаў жаночага роду з асновай на *-а* ў беларускіх гаворках» [Нарада па агульнаславянскім лінгвістычным атласе (Горкі, 23—27 чэрвеня 1970). М., 1970].

Рамановіч — член рэдакцыйнай калегіі і сааўтар «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (т. 1—5, 1979—86), які ўключае 38 тыс. слоў. Яна адрэдагавала і выдала «Слоўнік народных гаворак Заходняй Браншчыны» П. А. Растаргуева (Мн., 1973) і напісала ўступны нарыс пра яго складальніка (разам з Н. Д. Растаргуевай).

*Тв.:* Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія. Мн., 1957 (у сааўт.); Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1—2. Мн., 1961—62 (у сааўт.); Беларускае мовазнаўства: Бібліягр. паказ. (1825—1965). Мн., 1967 (разам з А. Д. Васілеўскай, М. А. Жыдовіч, А. К. Юрэвіч); П. А. Бузук. Мн., 1969 (разам з А. К. Юрэвіч); Мікратапанімія Беларусі. Мн., 1974 (у сааўт.); Беларускае мовазнаўства: Бібліягр. паказ. (1966—1975). Мн., 1980 (разам з А. Д. Васілеўскай). *М. Н. Крыўко.*

## РАПАНОВІЧ ЯЎГЕН НІЧЫПАРАВІЧ

Я. Н. Рапановіч нарадзіўся 27 верасня 1929 г. ў в. Холма Мядзельскага раёна. У 1957 г. скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў настаўнікам, рэдактарам і загадчыкам рэдакцый у выдавецтвах «Народная асвета», «Навука і тэхніка», «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя». Памёр 12 снежня 1987 г.

Я. Н. Рапановіч многа і плённа займаўся беларускай лексікаграфіяй. Склаў зборнік «Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі» (1958, 1974), разам з А. І. Болсунам уклаў «Слоўнік фізічных і астранамічных тэрмінаў» (1979), прызначаны для вучняў сярэдніх школ.

Самае грунтоўнае лексікаграфічнае дасягненне Я. Н. Рапановіча — слоўнікі назваў населеных пунктаў Беларусі па абласцях: «Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці» (1977), «Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці» (1980), «Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці» (1981), «Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці» (1982), «Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці» (1983), «Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці» (1986). Слоўнікі складаюцца з уводзінаў і дзвюх частак. Ва ўводзінах даюцца агульныя звесткі пра абласны цэнтр і самую вобласць (тэрыторыя, насельніцтва, колькасць населеных пунктаў і г. д.). Першая частка ўключае артыкулы пра паселішчы (гарады, гарадскія і рабочыя пасёлкі, вёскі, засценкі, хутары, чыгуначныя станцыі і раз'езды) на тэрыторыі сучаснай вобласці. Даюцца і назвы (на жаль, не ўсе) населеных пунктаў, якія ў савецкі час былі сселены або аб'яднаны з іншымі, спалены ў час Вялікай Айчыннай вайны і пасля не адноўлены. Загалоўным словам кожнага артыкула з'яўляецца назва населенага пункта з граматычнымі паметамі (указанне на род, формы роднага і меснага склонаў) і геаграфічна-адміністрацыйнымі звесткамі (тып паселішча, цэнтрам чаго — абласнога, раённага, пасялковага, сельскага Савета — з'яўляецца, у якім сельсавеце ці раёне знаходзіцца, у які калгас ці саўгас уваходзіць). Указваецца год, з якога населены пункт стаў горадам, гарадскім ці рабочым пасёлкам, пры новых назвах — год перайменавання і ранейшая назва. Фанетычныя, марфалагічныя і лексічныя варыянты (мясцовы народны і афіцыйны пісьмовы) беларускіх назваў населеных пунктаў і вытворных ад іх прыметнікаў змяшчаюцца побач з найбольш ужывальным (на першым месцы). Даецца перадача кожнага беларускага айконіма і вытворнага прыметніка па-руску.



**Слоўнікі назваў населеных пунктаў Беларусі па абласцях Я. Н. Рапановіча.**

У другой частцы Слоўніка прыводзіцца пералік у алфавітным парадку назваў раёнаў, пасялковых і сельскіх Саветаў, калгасаў і саўгасаў. Пры назве раёна ўказваецца дата яго ўтварэння, плошча і адміністрацыйны цэнтр, адлегласць ад яго да абласнога цэнтра, Мінска і да бліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда, колькасць у раёне пасялковых Саветаў, агульная колькасць населеных пунктаў, калгасаў і саўгасаў; падобныя звесткі даюцца пры назвах пасялковых і сельскіх Саветаў.

Створаныя Я. Н. Рапановічам слоўнікі маюць вялікае практычнае значэнне для мовазнаўцаў, географаў, гісторыкаў, адміністрацыйных і выдавецкіх работнікаў і наогул шырокай грамадскасці.

Я. Н. Рапановіч выступаў у друку з лінгвістычнымі артыкуламі, апавяданнямі для дзяцей. Вядомы ён і як перакладчык мастацкіх твораў з іншых моў на беларускую.

*Тв.:* Слова трэба шукаць // Полымя. 1967. № 8; Роздум над тэрмінам // Тамсама. 1968. № 8; Да пытання пра словы ***немаўля*** і ***арэлі*** // Лексікалогія і граматыка. Мн., 1969; Паселішча і яго назва // Маладосць. 1970. № 3; Структурна-граматычны аналіз назваў калгасаў і саўгасаў // Веснік БДУ. Сер. 4. 1971. № 1; Новыя назвы населеных пунктаў Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1982. № 1; О передаче по-русски ойконимов Белоруссии // Русский язык в Белоруссии. Мн., 1985.

*І. К. Германовіч.*

## РАСТАРГУЕЎ ПАВЕЛ АНДРЭЕВІЧ

Рускі і беларускі мовазнавец і педагог П. А. Растаргуеў нарадзіўся 30.6.1881 г. ў г. Старадуб Бранскай вобласці. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта (1908), працаваў выкладчыкам рускай мовы ў ВНУ Масквы. Доктар філалагічных навук (1941), прафесар (1923). Па запрашэнні культурна-асветніцкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята ў 1918 г. чытаў курс лекцый па беларускай мове ў Беларускім народным універсітэ-

це ў Маскве. У канцы 1924 г. выбраны правадзейным членам гуманітарнай секцыі Інбелкульта. Уваходзіў у склад фальклорна-дыялекталагічнай камісіі, пасля — у дыялекталагічную камісію, камісію жывой беларускай мовы, графікі і арфаграфіі. 8.2.1934 беспадстаўна арыштаваны і высланы ў карагандзінскі лагер. Пасля вызвалення працаваў (1938—52 гг. з перапынкам) загадчыкам кафедры рускай мовы Навазыбкаўскага педінстытута і адначасова (1947—49) — навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР. Памёр 21.3. 1959 г. ў Навазыбкаве.

Асноўнае ў яго навукова-даследчай рабоце — вывучэнне гаворак на тэрыторыях, дзе сутыкаюцца зоны распаўсюджання беларускай, рускай і ўкраінскай моў (Браншчына, Смаленшчына і часткова Чарнігаўшчына). Гісторыі гэтых гаворак, іх сучаснаму стану вучоны прысвяціў шэраг даследаванняў: «Гаворкі ўсходніх паветаў Гомельскай губерні ў іх сучасным стане» (Мн., 1927), «Звод матэрыялаў, сабраных Камісіяй па дыялекталогіі рускай мовы. Сер. І. Чарнігаўская губ.» (1927), «Да характарыстыкі гаворкі Старадубскага палка ў XVIII ст.» (1928) і інш. У манаграфіі «Северска-беларуская гаворка: Даследаванне ў галіне дыялекталогіі і гісторыі беларускіх гаворак» (Л., 1927) аналізаваў мову насельніцтва тых самых паветаў былой Чарнігаўскай губерні і паўночнай паласы Трубчаўскага павета былой Арлоўскай губерні. Аўтар робіць вывад, што гэтыя гаворкі адносяцца да паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак, але маюць агульныя рысы і з паўднёва-заходнімі. Вылучаюцца ў іх таксама асаблівасці, не характэрныя для беларускай мовы. На падставе гэтага Растаргуеў выдзеліў іх у асобную групу беларускіх гаворак, якую назваў северска-беларускімі. У 1928 г. за гэту працу Рускае геаграфічнае таварыства прысудзіла аўтару залаты медаль. Гаворкам дадзенай тэрыторыі прысвечаны «Слоўнік народных гаворак Заходняй Браншчыны» (Мн., 1973). У даследаванні «Гаворкі на тэрыторыі Смаленшчыны» (М., 1960) Растаргуеў вызначыў тып смаленскіх гаворак як змешаны: «Аснова гаворак беларуская, але гаворкі нельга ў цяперашні час назваць беларускімі: пачынаючы з XVI ст. іх аснова зведала і цяпер зведвае моцны ўплыў рускіх гаворак» (с. 184).

За час працы ў Інстытуце літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР вучоны склаў праект «Праграмы па збіранню звестак для складання Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», прымаў удзел у Першай дыялекталагічнай канферэнцыі (1948 г.) у Мінску, на якой выступіў з дакладам «Беларуская дыялекталогія ў мінулым і яе бліжэйшыя задачы». Акрамя даследаванняў у галіне дыялекталогіі займаўся і праблемамі беларускай літаратурнай мовы. Яму належаць артыкулы «Беларуская мова ў святле яе навуковага пазнання» (1922), «Да пытання аб ляшскіх рысах у беларускай фанетыцы» (1927), «Беларускае мовазнаўства ў 1917—1927 гг.» (1930) і інш. У дакладзе, прачытаным на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (1926), асноўную ўвагу звярнуў на напісанне афрыкат *дз, дж* і галосных *я, е, о, ю* ў пачатку слова і перад галоснымі.

*Тв.:* Белорусская речь в ее современном и прошлом состоянии: [Из лекций, читанных в Белорусском народном университете в Москве летом 1918 г.] // Курс белорусоведения. М., 1918—20; Да рэформы беларускай азбукі // Працы Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі: (14—21 ліст. 1926 г.). Мн., 1927; Да характарыстыкі беларускіх гаворак // Зап. аддзела гуманіт. навук. Кн. 2. Працы класа філалогіі. Мн., 1928. Т. 1; Аб вывучэнні беларускае дыялекталогіі // Тамсама; О программе по белорусской диалектологии // Изв. по рус. языку и словесности АН СССР. Л., 1928. Т. 1, кн. 2; Об атласе проф. П. А. Бузука по белорусской диалектологии // Изв. по рус. языку и словесности АН СССР. Л., 1930. Т. 3, кн. 2.

*Літ.:* Расторгуева Н. Д., Романович Е. М. Павел Андреевич Расторгуев // Расторгуев П. А. Словарь народных говоров Западной Брянщины: (Материалы для истории словарного состава говоров). Мн., 1973; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды: Биобиблиогр. словарь. Т. 3. Мн., 1978. *Я. М. Рамановіч.*

## РОД ГРАМАТЫЧНЫ

Граматычны род — адна з асноўных асаблівасцей назоўніка. У беларускай мове, як і ва ўсіх славянскіх, кожны назоўнік адзіночнага ліку абавязкова адносіцца да аднаго з трох родаў: мужчынскага, жаночага або ніякага.

Падзел на роды гістарычна звязаны з падзелам жывых істот на полы. І сапраўды, толькі назвы людзей і жывёл можна было б дзяліць у залежнасці ад полу носьбіта, ды і то — толькі на дзве групы. Але ў сучаснай мове гэта сувязь мае адносіны выключна да назоўнікаў адушаўлёных, і нават не ўсіх. А ў некаторых мовах пытанне пра род назоўнікаў наогул траціць усякі сэнс. Ёсць такое славянскамоўнае жартоўнае павер'е: упаў са стала нож — чакай госця-мужчыну, упала лыжка — чакай жанчыну. Фармальная «сувязь» прычыны і выніку зразумелая: назоўнік *нож* — мужчынскага роду, *лыжка* — жаночага. Але кабардзінец, які пачуў бы пра гэта павер'е, быў бы здзіўлены і збянтэжаны: які род у нажа ці ў лыжкі? У кабардзінскай мове ўсе неадушаўлёныя назоўнікі адносяцца да аднаго класа.

Пра ўмоўнасць і фармальнасць аднясення назоўнікаў да пэўнага роду яскрава сведчыць хаця б тое, што назоўнік *дуб* — мужчынскага, *сасна* — жаночага, а *дрэва* — ніякага роду. Ёсць правіла: назоўнік з нулявым канчаткам звычайна адносіцца да мужчынскага, з канчаткам *-а(-я)* — да жаночага, з канчаткам *-о* (не пад націскам *-а*) ці *-ё* (не пад націскам *-е*) — да ніякага роду, параўнаем: *стол, сцяна, акно.* Аднак гэта правіла не універсальнае: назоўнікі *бацька, тата, старшыня, суддзя, стараста* — мужчынскага роду, назоўнікі *соль, шыр, моц, кроў* — жаночага роду, а *дзіця, ласяня, імя, полымя* — ніякага роду. Тут канчаткі дапамагаюць мала.

Умоўнасць аднясення назоўніка да таго ці іншага граматычнага роду пацвярджаецца і тым, што нават у блізкіх мовах некаторыя словы маюць розны род. Так, у рускай *гусь, лебедь* — мужчынскага роду (хоць некалі і ў рускай — у А. С. Пушкіна — было магчыма ўжыванне *лебедь белая*), а ў беларускай *гусь, лебедзь* — жаночага роду, і наадварот, ***шинель, мозоль, фальшь, собака, тень*** у рускай жаночага роду, і наадварот, ***шынель, мазоль, фальш, сабака, цень*** — мужчынскага роду. Дарэчы, уплыў рускай мовы можа быць прычынай граматычнай памылкі — ужывання беларускага назоўніка ў іншым родзе.

Несупадзенне ў розных мовах граматычнага роду слоў, якія называюць адно і тое паняцце, нярэдка прыносіць пэўныя цяжкасці перакладчыкам, асабліва ў паэзіі. Там род назоўніка можа мець і сімвалічнае значэнне. Так, М. Ю. Лермантаў у вольным перакладзе з нямецкай верша Г. Гейне «Ein Fichtenbaum steht einsam», дзе назоўнік *Fichtenbaum* 'сасна' — мужчынскага роду, мусіў перакласці гэта слова як назоўнік жаночага роду — *сасна: На севере диком стоит одиноко // На голой вершине сосна...* У выніку змяніўся глыбінны змест верша. У Г. Гейне *ein Fichtenbaum* сумуе пра *die Palme* (прыгожую пальму). У перакладзе абодва персанажы — і *сасна,* і *пальма* — жаночага роду. І верш набыў больш агульны сэнс, матыў любоўнай пакуты саступіў месца матыву людской раз'яднанасці і вечнай адзіноты.

Значна складаней вызначыць род неагульнаўжывальнай лексікі: геаграфічных назваў, запазычаных назоўнікаў, абрэвіятур і складанаскарочаных слоў. Правіл не існуе: *Сож, Лепель* — мужчынскага, *Пціч, Смаргонь, Нарач* — жаночага роду. Толькі на запамінанне разлічана аднясенне да таго ці іншага роду многіх запазычаных назоўнікаў: *іваці* 'далёкаўсходняя сардзіна' — жаночага, *журы* і *папуры* — ніякага, *поні* — мужчынскага роду. Родам апорнага назоўніка вызначаецца род абрэвіятур (*БДУ* — мужчынскага, як апорнае *універсітэт, ВНУ* — жаночага — па аналогіі з *установа*). Аднак род тых абрэвіятур, што ўспрымаюцца і нават скланяюцца як асобныя самастойныя словы, вызначаецца

чыста фармальна: *БАМ*, 'Байкала-Амурская магістраль' і ВАК 'вышэйшая атэстацыйная камісія' — як назоўнікі мужчынскага роду (хоць іх апорныя словы *магістраль* і *камісія* — жаночага роду).

У беларускай мове сярод адушаўлёных назоўнікаў — назваў жывых істот — дастаткова рэгулярна суадносяцца назвы мужчынскага і жаночага роду. Іншы раз гэта розныя словы (*мужчына — жанчына, жарабец — кабыла, певень — курыца*), іншы раз аднолькавыя словы адрозніваюцца толькі суфіксам (*воўк — ваўчыха, мядзведзь — мядзведзіца, гусак — гусь*). Многія назвы не маюць адпаведных пар паводле роду: *карп, жук* — толькі мужчынскага роду, *ваверка, мыш, пчала, варона* — толькі жаночага.

У пэўнай ступені фарміраванне сродкаў выражэння родавых адрозненняў залежала ад уяўлення людзей пра гаспадарчую значнасць аб'екта. Асобнымі, лексічна рознымі словамі абазначаўся род асабліва каштоўных для жыцця чалавека жывёл (*бык — карова, баран — авечка*), менш значных — з дапамогай суфіксаў ці без іх (*заяц — зайчыха, леў — львіца*). А ў назвах жывых істот, якія не мелі прамога дачынення да гаспадарчай дзейнасці чалавека, адрозненне ў мужчынскім ці жаночым родзе, як правіла, не рэалізавана (*мыш, блыха*).

У назвах прафесій таксама наглядаецца суаднесенасць: *артыст — артыстка, настаўнік — настаўніца, ткач — ткачыха, паэт — паэтэса*. Аднак яна існуе не заўсёды. Назвы асоб паводле іх сацыяльнага становішча, пасады, вучонай ступені ці звання звычайна выступаюць у мове толькі як назоўнікі мужчынскага роду: *спецыяліст, аграном, рэдактар, дырэктар, інжынер, доктар, прафесар, лейтэнант* і інш. Адсутнасць адпаведных найменняў для асоб жаночага полу тлумачыцца тым, што такія спецыяльнасці, пасады, званні доўгі час былі прывілеяй мужчын. Калі ж ад такіх назоўнікаў і ўтвараюць паралельныя назвы жаночага роду (*дырэктарка, доктарка, прафесарка* і падобныя), то такія словы звычайна з'яўляюцца або назвай жонкі (дырэктара, доктара, прафесара), або ўспрымаюцца як не зусім нарматыўныя. Праўда, некаторыя назвы жанчын па прафесіі сталі ў апошні час замацоўвацца і ў літаратурна-мастацкім, і нават у афіцыйным стылях (*плыўчыха, кандуктарка, сакратарка, лабарантка*). Але ад шмат якіх назваў паралельныя назоўнікі жаночага роду наогул не ўжываюцца і не ўтвараюцца (*камсорг, касманаўт, механік, палітрук*). Разам з гэтым у літаратурнай мове ёсць шэраг слоў — назваў прафесій, якія пераважна займалі жанчыны: *прыбіральшчыца, балерына, пралля, машыністка, даярка, свінарка* і інш. Адпаведную назву для мужчын утвараюць або апісальна (*артыст балета*), або адкідваннем суфікса ці яго заменай (*даяр, свінар, прыбіральшчык*). Спачатку такія словы ўспрымаліся як аказіяналізмы, цяпер іх можна лічыць неалагізмамі.

Сярод назваў асоб ёсць група назоўнікаў, якія мяняюць род у залежнасці ад таго, каго яны называюць — мужчыну або жанчыну, напрыклад: *вясёлы запявала* (мужчынскі род) — *вясёлая запявала* (жаночы род). Такія словы лічацца назоўнікамі агульнага роду. Гэта пераважна словы, якія маюць неадабральнае, часта нават зневажальнае значэнне (*крыўляка, няўмека, п'яніца, дурніца, плакса, падпявала, валацуга*). З назоўнікамі агульнага роду збліжаюцца памяншальна-ласкальныя ўтварэнні ад уласных імён螺 рознага роду: *Саша* або *Шура* (*Аляксандр* і *Аляксандра*), *Жэня* (*Яўген* і *Яўгенія*), *Валя* (*Валянцін* і *Валянціна*). Аднак правільней лічыць такія назоўнікі, як *Валя* (ад *Валянцін*) і *Валя* (ад *Валянціна*) — амонімамі, якія супалі па форме, але адносяцца да рознага роду. Затое ніяк ужо нельга лічыць назоўнікамі агульнага роду такія, як *ліса, піла, змяя* і інш., што пераносна могуць быць ужыты для называння асоб — як мужчынскага, так і жаночага полу. Можна сказаць: *Якая ён хітрая ліса!* І ўсё роўна слова *ліса* застанецца назоўнікам жаночага роду, хоць ён і дастасаваны ў гэтым сказе да асобы мужчынскага полу.

Некаторыя назоўнікі маюць варыянтныя родавыя формы: *жыраф — жырафа, зала — зал, таполя — топаль, ціша — ціш* і г. д. (першы ў пары — сучасны нарматыўны варыянт).

Нарэшце, у мове існуе група множналікавых назоўнікаў (*абцугі, сані, граблі, суткі, гуслі, канікулы* і інш.). Гэтыя назоўнікі не адносяцца ні да аднаго з трох названых родаў. Некаторыя лінгвісты, праўда, вылучаюць іх у асобны, т. зв. парны род.

Граматычны род знаходзіць сваё сінтаксічнае выражэнне і ў словах, якія дапасуюцца: *новы дом — шырокая вуліца — расчыненае акно*; *ён пайшоў — яна пайшла — яно пайшло*. Прыметнікі, дзеясловы прошлага часу і іншыя атрымліваюць той жа род, што і слова, да якога яны дапасаваны. Таму род у гэтых слоў — паняцце не столькі марфалагічнае, колькі сінтаксічнае. У асобных выпадках, пераважна пры запазычаных словах, паясняльнае слова толькі і дапамагае вызначыць род назоўніка (параўнаем: *свежая салямі, гарачы сірока*). Дзеясловы-выказнікі іншы раз дапасуюцца да дзейніка не фармальна, а па сэнсе (калі, напрыклад, назоўнік мужчынскага роду называе па прафесіі асобу жаночага полу): *прыйшла ўрач, чытала лекцыю прафесар Іванова*.

*Літ.*: Н а р к е в і ч А. І. Назоўнік: Граматычныя катэгорыі і формы. Мн., 1976; Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Ш у б а П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. *П. П. Шуба*.

## «РОДНАЕ СЛОВА»

«Роднае слова» — грамадска-палітычны штомесячны тэлечасопіс, галоўнае прызначэнне якога — абуджаць цікавасць да роднай мовы, прапагандаваць веды па гісторыі пісьменства, інфармаваць пра навіны мовазнаўства, адказваць на пытанні гледачоў. Заснаваны У. Юрэвічам, Ф. Янкоўскім, М. Лужаніным. Выйшаў у эфір 29.4.1979. Першыя выпускі вёў М. Лужанін, потым П. Садоўскі, Я. Саламевіч, А. Каляда, У. Ламека, М. Станкевіч. З 1979 да 1990 і з 1991 года рэдактар У. Содаль.

У ходзе станаўлення «Роднага слова» яго мэты і задачы расшырыліся: інфармацыйна-прапагандысцкі тэлечасопіс пачаў набываць рысы вострай грамадска-публіцыстычнай перадачы. Ён прымае актыўны ўдзел у абмеркаванні праблемы адкрыцця беларускамоўных школ і класаў у гарадах рэспублікі, пашырэння сферы ўжывання роднай мовы (кіно, метро, справаводства, транспарт, вышэйшая школа), моўнага афармлення гарадоў, вуліц, дарог. Надзённым было ўзнятае тэлечасопісам і яго гледачамі пытанне пра выданне ў рэспубліцы беларуска-іншамоўных і іншамоўна-беларускіх слоўнікаў, дзіцячай энцыклапедыі, дыяфільмаў, паштовак і інш. друкаванай прадукцыі на роднай мове. У 1988—90 гг. шмат зрабіла «Роднае слова» для надання беларускай мове статуса дзяржаўнай. З прыняццем закона «Аб мовах у Беларускай ССР» перадача з выпуска ў выпуск паведамляе, як закон увасабляецца ў жыццё.

Шырокі рэзананс атрымалі грамадска-палітычныя старонкі перадачы. Сярод іх — «Мова перакладу «Маніфеста Камуністычнай партыі», «Маніфест першага часова-рэвалюцыйнага ўрада Беларусі», асветніцкія тэленарысы пра Ф. Скарыну, С. Буднага, Л. Зізанія, І. Насовіча, Я. Карскага, Б. Тарашкевіча, З. Жылуновіча, А. Чарвякова, А. Бурбіса, Цётку і інш., пра газеты «Наша доля», «Наша ніва», «Дзянніца», выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша аконца».

«Роднае слова» — перадача для ўсіх. У ёй прымаюць удзел вучоныя, рабочыя і калгаснікі, мастакі і акцёры, моладзь і дзеці, настаўнікі і вучні. Гасцямі тэлечасопіса былі даследчыкі мовы і літаратуры з колішніх саюзных рэспублік і замежных краін: М. І. Талстой з Расіі, В. М. Русаноўскі, Л. С. Паламарчук, Р. П. Піўтарак з Украіны, А. Лапінскене з Літвы, М. Абала з Латвіі, Б. Белаказовіч з Польшчы, В. Жыдліцкі з Чэхіі, А. Макмілін з Англіі, К. Гутшміт і

Ф. Шольц з Германіі, Курт Вулхайзер з ЗША. Усе яны гаварылі з гледачамі на беларускай мове. Бралі ўдзел у перадачы пісьменнікі К. Крапіва, Я. Брыль, П. Панчанка, Я. Скрыган, М. Лобан, А. Пысін, А. Клышка, А. Мальдзіс, А. Лойка, Б. Сачанка і інш., а таксама нашы землякі-эмігранты.

«Роднае слова» садзейнічае выхаванню паважлівых адносін да роднай мовы, пашырае кола яе прыхільнікаў, нясе звесткі з нядаўняга і далёкага мінулага нашага пісьменства.

*У. І. Содаль.*

## «РОДНАЕ СЛОВА»

«Роднае слова» — штомесячны навукова-метадычны часопіс, орган Міністэрства адукацыі Беларусі. Выходзіць са студзеня 1988 г., у 1988—91 гг. называўся «Беларуская мова і літаратура ў школе». Асвятляе пытанні моваэнаўчай і літаратурнай адукацыі ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, змяшчае матэрыялы па арганізацыі заняткаў, артыкулы па нацыянальнай культуры.

Складаецца з 7 раздзелаў: «Школа і нацыянальнае адраджэнне», «Методыка і вопыт», «Філалогія», «Калі закончыўся ўрок», «Міжпрадметныя сувязі», «Культура Беларусі», «На ростанях» (у 1988—89 гг. матэрыялы змяшчаліся ў раздзелах «Школа і перабудова», «Мовазнаўства», «Методыка мовы і вопыт», «Літаратуразнаўства», «Методыка літаратуры і вопыт», «Культура Беларусі», «Педагагічны субяседнік»). Дасягненні лінгвістычнай навукі рэспублікі, праблемы мастацкага стылю і мовы беларускай літаратуры, узаемасувязей народных гаворак і літаратурнай мовы асвятляюцца ў раздзеле «Філалогія», пытанні беларускага правапісу аналізуюцца ў раздзеле «Школа і нацыянальнае адраджэнне». Артыкулы раздзела «Методыка і вопыт» памагаюць настаўнікам арганізаваць заняткі ў адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі да навучальна-выхаваўчага працэсу, адлюстроўваюць перадавы вопыт педагогаў, іх пошукі і творчыя знаходкі.

Матэрыялы, змешчаныя пад рубрыкамі «У свеце слоў», «З гісторыі назваў», «Чаму так гаворым», «Лінгвістычныя заданні», і іншыя аб'яднаны агульнай назвай «Лінгвістычная мазаіка». Яны спрыяюць асэнсаванню месца беларускай мовы ў сістэме славянскіх і іншых моў, міжмоўных сувязей, агульнасці і адметнасці паміж мовамі, лінгвістычных з'яў.

У часопісе адзначаюцца юбілеі мовазнаўцаў, публікуюцца рэцэнзіі на лінгвістычныя выданні.

*М. М. Шавыркін.*

## РОДНАСЦЬ МОЎ

Роднасць моў — блізкасць (падабенства) моў, якая тлумачыцца, як і роднасць людзей, агульным паходжаннем. Але ў адрозненне ад чалавечай сям'і, дзе дзеці бываюць падобныя на жывых бацькоў, родныя мовы ў гісторыі чалавецтва ўзнікаюць як вынік дывергенцыі (распаду, расшчаплення) мовы-продка. Так, пасля распаду старажытнай праславянскай мовы ўзнікла старажытнаруская мова, на аснове якой у 14—15 ст. склаліся ўсходнеславянскія мовы, у тым ліку беларуская; сама ж праславянская мова з'явілася ў выніку распаду яшчэ больш старажытнай індаеўрапейскай моўнай супольнасці. Перадумовай для фарміравання паняцця моўнай роднасці з'яўляецца ідэя зменлівасці мовы; маецца на ўвазе, што з цягам часу ўсё меншая і меншая частка мовы з'яўляецца спадчынай, што засталася ёй ад мовы-продка, і ўсё больш становіцца ў ёй уласных арыгінальных рысаў. Гэты працэс цесна звязаны са змяненнем грамадска-эканамічных умоў, з развіццём матэрыяльнай і духоўнай культуры, з міграцыяй народаў.

Мовы, якія раздзяліліся параўнальна нядаўна («нядаўна» тут можа азначаць і некалькі стагоддзяў) і таму маюць шмат агульных рысаў, называюцца блізкароднаснымі. Руская, украінская і беларуская — блізкароднасныя (усходнеславянскія) мовы. Паміж беларускай і балгарскай ці беларускай і чэшскай мовамі — меншая ступень роднасці: яны ўсе таксама належаць да славянскіх моў, але да розных іх падгруп. Яшчэ больш далёкімі сваякамі з'яўляюцца, скажам, беларуская і нямецкая (ці французская) мовы. У мовазнаўстве вядомы спробы па ступені падабенства моў вызначыць гістарычны час іх раздзялення, адгалінавання ад агульнага продка (так званы метад глотахраналогіі).

Роднасць моў вызначаецца найперш па іх л е к с і ч н ы м складзе. Для супастаўлення пры гэтым бяруцца найбольш старажытныя карані. Так, усім славянскім мовам вядомыя словы накшталт *хлеб, вада, нага, рука, сястра, жыць, адзін* і да т. п. Іншай падставай для супастаўлення можа служыць граматычны лад: марфалагічныя формы і сінтаксічныя канструкцыі таксама ўстойлівыя ў часе. Не выпадкова, напрыклад, будова сказа ў беларускай і рускай мовах найчасцей супадае — гэта вынік агульнага паходжання гэтых моў. (Параўнаем: *Трэба пачакаць, пакуль адпачнуць усе ўдзельнікі спаборніцтва* і *Надо подождать, пока отдохнут все участники соревнования*. Хоць лексіка тут розная, граматыка адна і тая ж.)

Што ж датычыць гукавой матэрыі, то тут роднасць моў праяўляецца не толькі ў літаральных супадзеннях, але і ў рэгулярных адпаведнасцях гукаў. Скажам, мяккаму *т'* у рускай мове звычайна адпавядае мяккае *ц'* у беларускай (*тёмный — цёмны, тепло — цёпла* і г. д.). Іншы прыклад, які ілюструе далёкую ступень роднасці: пачатковаму *ф* у лацінскай мове часта адпавядае гук *б* у германскіх і славянскіх мовах (лац. *frater*, ням. *Bruder*, бел. *брат*). Заднеязычным выбухным зычным у адных індаеўрапейскіх мовах адпавядаюць пярэднеязычныя шчылінныя ў іншых (лац. *centrum*, у якім першы зычны вымаўляўся першапачаткова як *к*, і бел. *сто*); гэта проціпастаўленне паслужыла асновай для ўмоўнага дзялення моў на групы «кентум» і «сатэм».

Паняцце роднасці моў было краевугольным каменем пры стварэнні ў канцы 18 — пачатку 19 ст. першага навуковага метаду мовазнаўства — па-




**«Беларуская мова і літаратура ў школе» (вокладкі часопісаў).**

раўнальна-гістарычнага (гл. **Параўнальна-гістарычнае мовазнаўства**).

Можна сказаць, што ўсё далейшае еўрапейскае мовазнаўства 19 і 20 ст. развівалася пад сцягам ідэі роднасці моў.

Пачынаючы з сярэдзіны 19 ст. ідэю роднасці моў і прыёму параўнальна-гістарычнага аналізу выкарыстоўваюць і беларускія мовазнаўцы. Напрыклад, многія работы С. П. Мікуцкага прысвечаны параўнанню славянскай лексікі з матэрыялам балтыйскіх, германскіх, кельцкіх моў; у сваіх назіраннях над роднаснымі каранямі вучоны выходзіў і за межы індаеўрапейскай моўнай сям'і.

Праблематыка, звязаная з роднасцю моў, распрацоўвалася на Беларусі ў працах І. В. Ваўка-Левановіча і П. А. Бузука, пазней — у работах В. У. Мартынава, Р. У. Краўчука, Г. А. Цыхуна, В. М. Чэкмана, А. М. Булыкі і інш.

*Літ.:* Мейе А. Сравнительный метод в историческом языкознании. М., 1954; Семереньи О. Введение в сравнительное языкознание. М., 1980; Ходова К. І. Языковое родство славянских народов. М., 1960.

*Б. Ю. Норман.*

## РОДНАЯ МОВА

«Родная мова» — выраз не строга тэрміналагічны. Ён хутчэй адносіцца да сферы нацыянальнай псіхалогіі і этнічнага самаўсведамлення народа, чым да лінгвістыкі. Але эвалюцыя міжнацыянальных адносін у 20 ст. паставіла гэта паняцце ў цэнтр многіх тэарэтычных і практычных задач, звязаных з праблемамі суверэнітэту народаў, нацый і этнасаў, іх нацыянальна-культурнага развіцця, выбару дзяржаўнай мовы і моў міжнацыянальных зносін, вызначэння статусу і функцый моў народнасцей, што не маюць дзяржаўнай аўтаноміі, і г. д. У выніку такі ясны выраз, як «родная мова», канцэптуальна ўскладніўся і, пакінуўшы межы этналогіі і псіхалінгвістыкі, набыў паліталагічнае гучанне і міждысцыплінарны тэрміналагічны статус.

Вынікам гэтага сталася тое, што «родная мова» пачала акрэслівацца па-рознаму ў залежнасці ад зыходных метадалагічных пазіцый, агульных і прыватных тэарэтычных канцэпцый і нават палітычных прыхільнасцей. Існуе нямала спроб яго азначэння і характарыстык. Вось некаторыя з іх. Родная мова — тая, што першай засвоена ў дзяцінстве ў сямейным асяроддзі і што застаецца зразумелай усё жыццё. Родная — мова, якой чалавек валодае максімальна глыбока і поўна, на якой яму лягчэй, хутчэй і прасцей мысліць, больш зручна і прывычна, чым на якой-небудзь іншай, выказваць свае думкі і пачуцці. Родная мова спасцігаецца чалавекам адначасова з развіццём здольнасці мысліць. Гэта хутчэй прысваенне мовы, а не яе асваенне, вывучэнне.

Самая істотная ўласцівасць роднай мовы — даваць магчымасць асобе ідэнтыфікаваць сябе і ў адпаведнасці з гэтым атрымаць усе характарыстыкі гэтага стану: лёгкасць, хуткасць, прастату, зручнасць, звычайнасць карыстання мовай як формай сацыяльнага быцця.

Роднай называюць і мову нацыі, засвоеную з дзяцінства. Гэта мова бацькоў, мова свайго народа. Пры двухмоўі і шматмоўі — гэта мова штодзённых зносін. Існуе думка, што пры дасканалым веданні дзвюх моў і аднолькава лёгкім валоданні імі ў любых абставінах можна гаварыць пра дзве родныя мовы.

Варта звярнуць увагу, наколькі розныя прыкметы і ўласцівасці пакладзены ў аснову раскрыцця гэтага паняцця — ад мовы, успрынятай у дзяцінстве, да сукупнасці ўсіх ведаў і форм знакавых сістэм, якімі карыстаецца чалавек ва ўмовах сучаснай цывілізацыі. Паказальна і тое, што ўсе гэтыя прыкметы навукова і сацыяльна значымыя пры пошуку адказу на пытанне, што такое родная мова.

Аднак з усіх рысаў, асаблівасцей, прыкмет, функцый роднай мовы, што адзначаюць розныя даследчыкі, трэба вылучыць дзеля іх асаблівай значнасці тры функцыі: мыслення, выражэння думкі і самаідэнтыфікацыі. Усё астатняе ў мове, якую чалавек лічыць сваёй роднай (час і спосаб авалодання ёю, ступень яе разумення, штодзённасць зносін, пазнавальныя магчымасці, назапашванне ведаў у памяці, эмацыянальнасць, здольнасць служыць сродкам сацыяльнай барацьбы і г. д.), падпарадкавана тром гэтым яе функцыянальным прыкметам.

Зыходзячы з гэтых меркаванняў, паняццю «родная мова» можна даць наступнае азначэнне: роднай называецца мова, на якой чалавек мысліць без дадатковага самакантролю, з дапамогай якой лёгка і натуральна выражае свае думкі ў вуснай і пісьмовай слоўнай форме, якая служыць падмуркам яго этнічнага самаўсведамлення, яго этнічнай і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

*А. Я. Міхневіч.*

## «РОДНАЯ МОВА»

«Родная мова. Месячнік пасьвячоны пытаньнем беларускае (крывіцкае) мовы» — першы беларускі спецыялізаваны мовазнаўчы часопіс. Выдаваўся «Беларускім Гаспадарскім Зьвязам», які ўзначальваў Ян Станкевіч, выходзіў у 1930—31 гг. у Вільні на грамадскія ахвяраванні і сродкі польскага Міністэрства веравызнанняў і асветы. Рэдактар і аўтар большасці артыкулаў — Ян Станкевіч. У часопісе прадстаўлена шырокая лінгвістычная тэматыка: артыкулы па гісторыі мовы, гістарычнай фанетыцы, гістарычнай і сучаснай дыялекталогіі, па праблемах упарадкавання арфаграфіі і граматыкі літаратурнай мовы. Прыкметнае месца займалі публікацыі па лексікалогіі і культуры мовы. У рубрыцы «Крытыкі ј рэфэраты» рэцэнзаваліся найбольш значныя мовазнаўчыя працы («Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча, «Беларускі правапіс» Р. Астроўскага, працы Я. Карскага, К. Ніча, Г. Ільінскага і інш.).

Тэарэтычныя і практычныя публікацыі «Роднай мовы» рабілі пэўны ўплыў на беларускую літаратурную мову ў Заходняй Беларусі. У артыкуле Я. Станкевіча «Да вымовы ј правапісу чужых словаў» (1930. № 1-2), дзе асобна разгледжаны запазычанні з неславянскіх і са славянскіх моў, прапаноўвалася распаўсюдзіць на неславянскія запазычанні поўнае аканне *(літаратура, характарны)*, абгрунтоўвалася перадача *с, з* перад *і, е* ў запазычаннях беларускімі *с, з* цвёрдымі *(сыстэма, пазыцыя)*. Правапіс запазычанняў са славянскіх і балцкіх моў набліжаўся да правапісу слоў спрадвечнабеларускіх.

На старонках «Роднай мовы» рэалізаваліся графіка-арфаграфічныя праекты Я. Станкевіча. У алфавіце, якім друкаваўся часопіс, выкарыстоўваліся літары *ј* і *ґ*, паслядоўна паказваліся на пісьме пратэтычныя *ј* і *в (јншы, у вадным)*; у мове часопіса захоўваліся спецыфічныя напісанні канчаткаў і суфіксаў назоўнікаў і дзеясловаў *(пасьвячоны, пытаньнем, на месцу, праходзе, дзеле, казаці)*. У падрабязным аглядзе «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча (1930. № 1—5; 1931. № 6) шырока ўжываліся лексе-



РОДНАЯ МОВА

МЕСЯЧНІК ПАСЬВЯЧОНЫ ПЫТАНЬНЕМ
БЕЛАРУСКАЕ (КРЫВІЦКАЕ) МОВЫ.

№ 6 Верасень — Сьнежань 1930 Год I.

Зьмест:

Артыкулы:

Крытыкі ј рэфэраты

Часопіс «Родная мова» (вокладка). 1930.

мы-наватворы, у тым ліку лінгвістычныя тэрміны, і словаўтваральныя варыянты, якія Я. Станкевіч лічыў неабходным укараняць у літаратурную мову: *вымова* 'вымаўленне', *вышпрыведзены, менаваны, назоў* 'назва', *пачатны* 'пачатковы', *тэндэнца, хворма, самагук, сугук, займя* 'займеннік', *прыймя* 'прыназоўнік'.

Дэталёва і комплексна разглядаліся на старонках «Роднай мовы» з'явы асіміляцыі і дысіміляцыі, фанетычныя змены на стыку слоў: «Распадабненьне шыпячых у беларускај мове» (1930. № 1-2); «Прыстаўное *v* у беларускај мове», «*j* паміж *a, o, e* і зубнымі ў беларускај мове», «Папраўка [аб ацьвярдзеньню і (ль) у беларускај мове]», «Пратэтычныя гукі ў беларускај мове» (1930. № 3—4); «Асыміляца ј дысыміляца гукаў у беларускај мове» (1931. № 6).

Цыкл артыкулаў у часопісе быў прысвечаны генезісу беларускай мовы, яе дыялектам і межам пашырэння: «Беларускія плямёны ј ïхняе расьсяленьне» (1930. № 1-2, 3-4); «Да беларускае мовы Горадненскага пав. Чарнігаўшчыны», «Аб беларусах і беларускај мове ў энцыклёпэдычных слоўніках» (1930. № 1—2); «Месца беларускага языка сярод јіншых славянскіх языкоў і час яго ўзьніку» (1930. № 5); «Беларускія асаблівасьці ў баўгарскај мове» (1931. № 6) і інш. Надрукаваны метадычныя рэкамендацыі да збору беларускай тапанімікі і антрапанімікі (1931. № 6).

Рэцэнзаваныя часопісам аўтары, у тым ліку Б. Тарашкевіч і А. Луцкевіч, крытыкаваліся за ўжыванне правапісных, акцэнталагічных, граматычных, лексічных, словаўтваральных, сінтаксічных русізмаў, паланізмаў і украінізмаў. Асветніцкую задачу мелі пастаянныя рубрыкі («Куткі мовы», «Слоўнічак»), прысвечаныя культуры мовы і пурыстычнаму ачышчэнню яе ад іншамоўных уплываў.

Выданне было ацэнена прафесійнымі лінгвістамі. Услед за «Роднай мовай» украінскі філолаг прафесар Іван Агіенка, які высока ацаніў навуковую дзейнасць Я. Станкевіча, распачаў у 1933 г. ў Варшаве выданне часопіса «Рідна мова». Будучы адзіным навуковым беларускім часопісам у міжваеннай Заходняй Беларусі, «Родная мова» выканала для свайго часу ролю універсальнага мовазнаўчага даведніка.

*В. Вячорка.*

## РУСКАЯ МОВА

Руская мова — мова рускай нацыі. Афіцыйная і рабочая мова ААН (разам з французскай, англійскай, іспанскай, кітайскай і арабскай), адна з найбольш распаўсюджаных моў свету: у той ці іншай форме ёю карыстаюцца каля 0,5 млрд. чалавек. Паводле перапісу насельніцтва 1989 г. з агульнай колькасці жыхароў Беларусі (10 152 тысячы чалавек, з іх беларусаў 7905 тысяч, 1342 тысячы рускіх) рускую мову ў якасці роднай назвалі 3244 тысячы (у 1979 г.— 2688 тысяч) чалавек, прычым з іх рускіх — 1311 тысяч, астатнія 1933 тысячы чалавек — іншых нацыянальнасцей. Акрамя таго, 5156 тысяч чалавек (50,8 % усяго насельніцтва Беларусі) адзначылі рускую мову як другую, якой яны свабодна валодаюць. Рускай мовай як другой валодаюць 60,4 % беларусаў.

У рэспубліцы сёння забяспечваецца «права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін народаў...» (Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб мовах у Беларускай ССР. Мн., 1990. С. 5).

Разам з блізкароднаснымі беларускай і ўкраінскай руская мова належыць да ўсходнеславянскай групы славянскіх моў індаеўрапейскай моўнай сям'і. Пасля распаду праславянскага этнамоўнага адзінства сфарміраваліся тры блізкароднасныя групы: усходняя (старажытнаруская народнасць), заходняя (палякі, чэхі, славакі, лужычане, паморскія славяне) і паўднёвая (балгары, славенцы, харваты, македонцы), кожная са сваімі моўнымі асаблівасцямі. Продкам усходнеславянскіх моў з'яўляецца старажытнаруская, або агульнаўсходнеславянская, мова (існавала з 7 па 14 ст.), на аснове якой у 10 ст. ўзнікла пісьменства (кірылаўскі алфавіт). Кнігадрукаванне на рускай мове — з сярэдзіны 16 ст.; сучасная графіка (грамадзянскі шрыфт) на аснове варыянта кірыліцы ўведзена ў пачатку 18 ст. Рускі алфавіт мае 33 літары. На старажытнарускую мову ўздзейнічала старaславянская мова — найстаражытная літаратурная мова ўсіх славян, што была адной з асноўных крыніц узбагачэння яе лексіка-фразеалагічнай, семантычнай і стылістычнай сістэм (гл. **Старaславянская мова**). Жывая размоўная стыхія старажытнарускай мовы адлюстравана ў прыватнай перапісцы, дзяржаўных дагаворах, юрыдычных помніках, а таксама ў асобных творах у складзе летапісаў.

У 15 ст. склаліся блізкароднасныя, з агульнымі рысамі, але кожная са сваімі асаблівасцямі ўсходнеславянскія мовы — руская, украінская і беларуская. Руская мова адрознівалася ад беларускай і ўкраінскай моў таго часу некаторымі асаблівасцямі фанетычнага (змяненне слабых *ъ, ь* у спалучэнні з плаўнымі *р, л,* у *о, е* і развіццё канчаткаў *-ый, -ий* у *-ой, -ей*), марфалагічнага (страта клічнай формы, замена *ц, з, с* заднеязычнымі *к, г, х* у формах скланення, развіццё формы назоўнага склону множнага ліку на *-а* і некаторыя іншыя), лексічнага (з'яўленне ўласна рускіх слоў тыпу *крестьянин, лавка, пашня, мельник*) характару.

Паступовае пашырэнне цэнтралізаванай Маскоўскай дзяржавы (утварэнне якой адбывалася ў перыяд з 14 па 16 ст.) шляхам далучэння новых княстваў вяло адначасова і да ўзмацнення дыялектнай мнагастайнасці. Афармляюцца дзве асноўныя дыялектныя зоны — паўночнаруская і паўднёваруская гаворкі, а таксама прамежныя сярэднярускія; сярод іх вядучую ролю адыгрывае гаворка Масквы — кайнэ, якая мела агульныя асаблівасці дзвюх дыялектных зон з паўночнарускай гаворкай у аснове. Моўная сітуацыя была досыць складанай, без адзіных норм. Існавала царкоўнаславянская мова рускай рэдакцыі (гл. **Царкоўнаславянская мова**) і ўласна руская літаратурная мова з народнай асновай з рознымі пераходнымі тыпамі. Дзякуючы рэформе кнігапісання, якую ў канцы 14 ст. зрабіў мітрапаліт Кіпрыян, аднавілася царкоўнаславянскае пісьменства. У выніку перасталі пісаць «ёт» пасля галосных (*твоеа*), увялі літару Ѫ (юс вялікі), старaславянскае напісанне глухіх пасля плаўных у словах тыпу *врьхъ, плък*. У лексіцы рэстаўрыраваліся словы з няпоўнагалоссем, з гукаспалучэннямі *жд* і *щ*. З канца 14 ст. ў сувязі з так званым другім паўднёваславянскім уплывам (першае адносіцца да перыяду прыняцця хрысціянства і з'яўлення на Русі пісьменства) узмацняецца архаізацыя мовы, узнікае «пляценне славес» — прыўзнята-ўпрыгожаны, напышлівы, урачысты стыль. У пераўтвораным выглядзе (у жанры панегірыкаў і од) ён культываваўся ў рускай літаратуры на працягу ўсяго 18 ст. Паралельна развівалася нармалізаваная дзелавая дзяржаўная мова Масквы, цесна звязаная з жывой народнай мовай. Мастацкая літаратура таго часу адрознівалася стракатай мовай.

У 17 ст. складаюцца асновы сістэмы нацыянальнай літаратурнай мовы, пачынаецца ўздзеянне літаратурнай мовы на гаворкі. Маскоўскае кайнэ выцясняе мясцовыя дыялекты, паступова становіцца ўзорным, сярэдневялікарускім па сваім характары і як вынік гэтага — агульнай дзяржаўнай мовай. Ліквідуецца літаратурнае двухмоўе: царкоўнаславянская мова захоўваецца толькі як мова царквы.

18 ст.— пераломны этап у станаўленні рускай нацыянальнай мовы. Пятроўскі час узбагаціў яе запазычаннямі з заходнееўрапейскіх моў, разнастайнымі тэрмінамі; М. В. Ламаносаў выпрацаваў тэорыю трох стыляў, падрыхтаваў першую граматыку рускай мовы; карамзінскі перыяд звязаны з барацьбой за сцвярджэнне адзінай моўнай нормы. З А. С. Пушкіна пачынаецца сучасная руская літаратурная мова; ён аб'яднаў у адзіную сістэму рускую народную, царкоўнаславянскую і заходнееўрапейскую моўныя стыхіі (аснова — руская народная мова). Гэта аблегчыла выпрацоўку моўных стыляў, вызначыліся агульнарускія,

абавязковыя нормы для ўсіх, хто валодае мовай. Вялікая роля ў развіцці і далейшым фарміраванні літаратурнай мовы рускіх пісьменнікаў 19—20 ст.

Сучасная руская мова выступае ў сваіх дзвюх разнавіднасцях: літаратурнай (унармаванай, узорнай) і нелітаратурнай (утвараецца дыялектамі, арго, рознымі тыпамі прастамоўя). Літаратурная мова — гэта мова навукі, школы, газет, часопісаў, мастацкай літаратуры, тэатра, кіно, радыё, тэлебачання, дакументаў. Аснова яе — стылістычна нейтральныя сродкі, агульнапрынятыя і нарматыўныя. Згодна з данымі 17-томнага акадэмічнага слоўніка сучаснай літаратурнай мовы, стылістычна неафарбаваныя моўныя сродкі складаюць прыкладна тры чвэрці яе арфаэпічных, граматычных і лексічных норм. Астатняя частка слоў з рознай стылістычнай афарбоўкай з'яўляецца сродкам выразнасці мовы. Размоўныя элементы выконваюць функцыю натуральнасці, некаторай зніжанасці, кніжныя сродкі — узвышаную функцыю. Вусная літаратурная мова адрозніваецца ад пісьмовай своеасаблівым сінтаксічным ладам, наяўнасцю аказіяналізмаў, прастамоўных элементаў (дыялектызмаў, жарганізмаў і г. д.), аднак таксама падпарадкоўваецца нормам. Усе разнавіднасці рускай мовы знаходзяцца ў складаным узаемадзеянні; яны аб'ядноўваюцца агульнай фанетычнай і граматычнай сістэмай і слоўнікавым саставам.

Асобнае месца ў агульнанацыянальнай рускай мове належыць тэрытарыяльным гаворкам. Асноўныя адзінкі тэрытарыяльнага члянення: дыялекты паўночны (ладага-ціхвінская, валагодская, кастрамская групы гаворак) і паўднёвы (заходняя, верхнедняпроўская, верхнедзяснінская, курска-арлоўская, усходняя групы гаворак), а таксама сярэднярускія гаворкі: заходнія окаючыя (наўгародскія, гдоўскія) і акаючыя (пскоўскія, селігера-таржкоўскія), усходнія окаючыя (уладзімірска-паволжская) і акаючыя. Умоўна групы гаворак аб'ядноўваюцца ў заходнюю, паўночную, паўночна-заходнюю, паўднёвую, паўднёва-заходнюю і паўднёва-ўсходнюю дыялектныя зоны. Некаторыя з заходніх, верхнедняпроўскіх і верхнедзяснінскіх гаворак паўднёвага дыялекту маюць рысы, якія збліжаюць іх з гаворкамі паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы. Да ўзнікнення пісьменства дыялекты былі універсальнай формай існавання мовы. З развіццём культуры, узнікненнем нацыянальнай рускай мовы дыялекты становяцца пераважна мовай сельскага насельніцтва. Для сучаснай рускай мовы характэрна папаўненне тэрміналогіі новымі спецыяльнымі словамі; у апошні час у мову ўліваецца шмат запазычанняў з англійскай мовы (амерыканскага варыянта) тыпу *менеджер, маркетинг* і г. д.

З беларускай мовай рускую роднязь значны пласт агульнай лексікі, граматычны лад, сістэма стыляў, супадзенне семантыкі большасці слоў. Адрозненні паміж імі выяўляюцца на розных узроўнях мовы: лексічным (*воскресенье — нядзеля, защитник — абаронца*), фанетычным (толькі для рускай мовы характэрны фанемы *г* выбухное, *р', ч', т', д'*, у ёй адсутнічаюць уласцівыя беларускай мове *г* фрыкатыўнае, *дз', дж, ў*), марфалагічным (рускае *берега* — беларускае *берагі* ў назоўным склоне множнага ліку мужчынскага роду; у рускім інфінітыве *-ти* захоўваецца толькі пад націскам: *нести́*, у беларускім — не толькі пад націскам: *не́сці*). Рускую мову ад беларускай адрозніваюць таксама некаторыя арфаэпічныя нормы (*ро́вня — раўня́, на́ смех — на сме́х*) і сістэма пісьма (для рускай мовы характэрны гісторыка-фаналагічны прынцып: пераважна абазначаецца фанема ў моцнай пазіцыі; для беларускай — фанетычны). Акрамя таго, у рускай графіцы выкарыстоўваюцца некаторыя літары (*и, ъ, щ*), якія адсутнічаюць у беларускай.

Узаемаадносіны рускай мовы з беларускай абумоўлены агульнасцю паходжання (вызначае іх структурную блізкасць, магчымасць параўнальна свабоднага запазычвання элементаў) і грамадска-палітычнымі, эканамічнымі, культурнымі сувязямі рускага і беларускага народаў. Старажытнаруская мова з'явілася зыходным этапам у станаўленні старабеларускай літаратурнай мовы. У дзелавым пісьменстве Беларусі 14 ст. адлюстраваны важныя традыцыйныя сродкі і прыёмы пісьма старажытнарускага перыяду; старажытнарускія летапісныя зводы былі ўзорам літаратурна-пісьмовай мовы для арыгінальных беларускіх летапісаў.

Асабліва інтэнсіўныя адносіны блізкародных рускай і беларускай моў пачаліся з 2-й паловы 16 ст., важную ролю ў іх адыгралі кнігадрукаванне, пераклады на рускую мову з беларускай, абмен дыпламатычнымі місіямі і перапіска паміж Расіяй і Вялікім княствам Літоўскім.

Уздзеянне беларускай мовы на рускую было найбольш прыкметным у пачатковы перыяд станаўлення моў. На тэрыторыі Заходняй і Паўднёва-Заходняй Русі былі высока развіты культура і навука, асабліва філалогія, складзены першыя славяна-рускія граматыкі, амаль на паўстагоддзя раней, чым у межах Маскоўскай дзяржавы, распачата кнігадрукаванне. Уздзеяннем беларускай мовы на рускую абумоўлены выпадкі выкарыстання беларускай лексікі і сінтаксічных сродкаў у помніках рускага пісьменства канца 14 — пачатку 18 ст., больш позняга пранікнення беларускіх грамадска-палітычных тэрмінаў у рускую мову. У гэты час назіраўся таксама ўзаемны ўплыў беларускіх і рускіх гаворак, пад значнае беларускае ўздзеянне трапілі рускія паўднёвапскоўскія і некаторыя іншыя гаворкі. З прычыны свайго геаграфічнага становішча і гістарычнага лёсу беларускія землі на працягу некалькіх стагоддзяў былі сувязным звяном, пасрэднікам у культурна-эканамічных і палітычных адносінах паміж Маскоўскай дзяржавай і Захадам. Пранікненню беларускіх слоў у рускую мову садзейнічала таксама далучэнне да Маскоўскай дзяржавы тэрыторый з беларускім насельніцтвам, якія раней уваходзілі ў Вялікае княства Літоўскае і Рэч Паспалітую.

Кантакты рускай і беларускай моў асабліва ўзмацніліся пасля далучэння Беларусі да Расіі ў канцы 18 ст. У той час руская мова была прызнана дзяржаўнай для ўсёй Расіі, у тым ліку і на Беларусі. Ужо цалкам сфарміраваная ў 18—19 ст. на нацыянальнай аснове, руская літаратурная мова рабіла моцны ўплыў на беларускую мову, які адбіваўся ў запазычанні лексікі, калькаванні многіх слоў, стварэнні тэрміналагічнай сістэмы, пашырэнні семантычнага аб'ёму спрадвечных беларускіх лексем, удакладненні стылістычнай дыферэнцыяцыі, актывізацыі ўнутраных рэсурсаў мовы. У пачатковы перыяд фарміравання новай беларускай літаратурнай мовы (1-я палова 19 ст.) элементы рускай мовы траплялі ў творы беларускай мастацкай і іншай літаратуры. Гэтаму пранікненню садзейнічала існаванне пераходных беларуска-рускіх гаворак, якія ўдзельнічалі ў фарміраванні беларускай нацыянальнай мовы. У 20 ст. вылучаюцца тры перыяды пранікнення рускай лексікі ў беларускую літаратурную мову: 20—30-я гады, 40-я — пачатак 50-х гадоў, 50—70-я гады — праз газеты і часопісы, навукова-папулярную, мастацкую літаратуру.

Руская мова — адзін з аб'ектаў даследавання беларускіх лінгвістаў Ц. П. Ломцева, М. І. Гурскага, М. Г. Булахава, А. М. Бардовіча, П. П. Шубы, А. І. Яновіч, А. М. Булыкі, І. А. Кісялёва, В. М. Нікіцевіча і іншых.

*Літ.:* Крукоўскі М. І. Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову. Мн., 1958; Русский язык в Белоруссии. Мн., 1985; Булахов М. Г., Жовтобрюх М. А., Кодухов В. И. Восточнославянские языки. М., 1987; Міхневіч А. Я., Гіруцкі А. А. Вазьмі маё слова...: Нататкі аб лексічным узаемаўплыве бел. і рус. моў у кантэксце ўзаемадзеяння культур. Мн., 1990. *В. М. Нікалаева.*

## РЭДУКАВАНЫЯ ГАЛОСНЫЯ

Рэдукаваныя галосныя — гэта галосныя гукі няпоўнага ўтварэння сярэдняга пад'ёму, блізкія да галосных *о, э*, якія вызначаліся звышкаротка-

сцю і невыразнасцю артыкуляцыі. Рэдукаваныя галосныя былі ўласцівы праславянскай мове, а таксама асобным славянскім мовам старажытнага перыяду, у тым ліку і старажытнарускай, або агульнаўсходнеславянскай, мове. *На працягу гістарычнага* развіцця старажытнарускай мовы адбываўся працэс падзення рэдукаваных гукаў. Іх рэфлексы былі рознымі ў розных усходнеславянскіх дыялектных групоўках, і гэта ў значнай ступені спрыяла фарміраванню асобных усходнеславянскіх моў. Таму гісторыя старажытнарускіх рэдукаваных гукаў мае вялікае значэнне для гісторыі ўсходнеславянскіх моў, у тым ліку і беларускай.

Стваральнікі славянскай азбукі Кірыл і Мяфодзій для абазначэння старажытных славянскіх рэдукаваных — пярэдняга і непярэдняга рада — прапанавалі два знакі ь і ъ («ер» і «ёр»). У адпаведнасці з назвамі гэтых літар рэдукаваныя гукі маюць тыя ж назвы (умоўныя).

У *старажытнарускай мове* рэдукаваныя галосныя вымаўляліся незалежна ад месца націску, але па-рознаму гучалі ў залежнасці ад пазіцыі ў слове. Найбольш кароткімі яны былі ў канцавых складах, а таксама перад складам з галосным поўнага ўтварэння або з рэдукаваным галосным у моцнай пазіцыі *(ножь, къто, кънига, жьньць)*. Гэтыя пазіцыі вызначаюцца як *слабыя пазіцыі* рэдукаваных. Моцнымі былі пазіцыі галосных перад складам са слабым рэдукаваным або ў складзе пад націскам *(льнъ, дъска)*, пры гэтым трэба мець на ўвазе, што пазіцыя пад націскам не заўсёды можа быць устаноўлена дакладна, бо месца націску — гістарычна зменлівае. З моцнымі рэдукаванымі па выніках развіцця супадалі таксама рэдукаваныя ў спалучэнні з наступнымі плаўнымі *р, л* паміж двума зычнымі, што назіралася ў каранёвых марфемах *(мълния, вьрхь)*.

Рэдукаваныя галосныя старажытнарускай мовы на працягу 11—14 ст. перажылі значныя змены: адбывалася праясненне моцных рэдукаваных у галосныя поўнага ўтварэння ъ ў *о*, ь ў *э* і знікненне слабых рэдукаваных. Так, старажытнарускае слова *мъхъ*, якое ў пачатку 11 ст. было двухскладовым з двума рэдукаванымі (слабым — на канцы, моцным — у першым складзе), у канцы 14 ст. вымаўлялася як аднаскладовае слова *мох* з галосным *о* на месцы моцнага рэдукаванага ъ і са стратай слабага рэдукаванага ў канцы слова. Такі напрамак развіцця рэдукаваных быў агульны для ўсіх дыялектаў старажытнарускай мовы, хоць і працякаў з неаднолькавай інтэнсіўнасцю: на поўдні падзенне рэдукаваных скончылася раней, чым на поўначы (лінгвістычны тэрмін «падзенне рэдукаваных» абазначае як страту слабых рэдукаваных, так і развіццё галоснага поўнага ўтварэння на месцы моцных).

Больш працяглае захаванне ў вымаўленні рэдукаваных галосных у паўночных усходнеславянскіх дыялектах мела сваім вынікам асаблівы шлях развіцця ў гэтых дыялектах спалучэнняў рэдукаваных з плаўнымі паміж зычнымі. *На іх месцы* ў адпаведнасці з агульнарускімі спалучэннямі *ор, ол, ер* развіліся спалучэнні *оро, оло, ере*. Так, на месцы старажытнарускага слова *мълния* прадстаўлена беларускае *маланка*, рускае дыялектнае *молонья*, украінскае *молоння*, на месцы старажытнарускага *вьрвька* — беларускае *вяроўка*, рускае *верёвка*, украінскае *верьовка* (паўночнарускія *па паходжанні*, гэтыя словы *пашырыліся* і ў іншых дыялектах старажытнарускай мовы і часткова захаваліся ў сучасных усходнеславянскіх мовах). Гэтая з'ява ў лінгвістыцы называецца другім поўнагалоссем. (Першае поўнагалоссе развівалася ў дапісьмовы перыяд усходнеславянскай мовы на месцы спалучэння плаўных з папярэднімі галоснымі поўнага ўтварэння: беларускае *варона*, рускае *ворона*, украінскае *ворона* на месцы праславянскага *ворна*.)

Дыялектныя разыходжанні старажытнарускага перыяду выявіліся таксама і ў лёсе слабых рэдукаваных у спалучэнні з папярэднім плаўным паміж двума зычнымі (у старажытнарускай мове — *кръвь, трьвога, глътати*). Моцныя рэдукаваныя ў такой пазіцыі праявіліся ў галосныя поўнага ўтварэння ва ўсіх старажытнарускіх дыялектах, адсюль сучаснае беларускае *кроў*, рускае *кровь*, украінскае *кров*. Развіццё слабых рэдукаваных адбывалася пад уплывам плаўнасці папярэдняга зычнага, і гэта дало галосныя поўнага ўтварэння на месцы слабых рэдукаваных. Але ўзнікшыя такім чынам галосныя адрозніваліся па дыялектах: у паўднёва-заходніх дыялектах старажытнарускай мовы развіліся галосныя *и, ы*, адсюль беларускія *трывога, глытаць*, украінскія *тривога, глитати*. Так склалася характэрная для беларускай і ўкраінскай моў асаблівасць — чаргаванне *ро/ры, ло/лы, ле/лі*, напрыклад, у беларускай: *кроў — крывавы, глотка — глытаць*, тое ж ва ўкраінскай: *кров — кривавий* і падобныя. У паўночна-ўсходніх дыялектах старажытнарускай мовы развіліся галосныя *о, э*, адсюль рускія *тревога, глотать*.

Змяненне форм слоў у старажытнарускай мове суправаджалася чаргаваннем моцных і слабых рэдукаваных: *сънъ — съна, звонъкъ — звонъка*, што пасля падзення рэдукаваных дало развіццё так званай «бегласці» галосных: *сон — сну, званок — званка*. Гэтая з'ява вядома ўсім сучасным усходнеславянскім мовам, хоць мае неаднолькавае пашырэнне. Сучаснай беларускай мове вядомы формы з чаргаваннем: *мох — імху, лён — ільну*, хоць часта захоўваюцца каранёвыя галосныя *о, э* на месцы слабых рэдукаваных *моху, лёну*. Чаргаванні галосных такога тыпу ўласцівы таксама і ўкраінскай мове: *сон — сну, пісок — піску, хлопець — хлопця*. У рускай мове «бегласць» галосных характарызуе не толькі большасць марфем са спрадвечным рэдукаваннем, але і некаторыя марфемы са спрадвечным галосным поўнага ўтварэння, дзе чаргаванне галосных *о, э* з нулём гука ўзнікла па ўзоры слоў са спрадвечным рэдукаваным: рускія *камень — камня, пепел — пепла, ров — рва* (у адрозненне ад беларускіх *камень — каменя, попел — попелу, роў — рова*).

Фанетычная заканамернасць развіцця моцных і слабых рэдукаваных часта сутыкалася з другой тэндэнцыяй моўнага развіцця — выраўноўваннем асноў пры змяненні слоў. Адступленні ад заканамернасцей фанетычнага развіцця рэдукаваных у залежнасці ад *пазіцыі* ў слове закранaлі найчасцей суфіксальныя марфемы ў шматскладовых словах (хоць гэта магчыма і ў каранёвых марфемах). Так, у старажытнарускай назве горада *Витьбьскъ* моцным быў рэдукаваны ў суфіксе *-ьск-*, а слабым — у суфіксе *-ьб-*. Але з прычыны марфалагічнай аналогіі зацвердзілася вымаўленне галоснага на месцы слабага рэдукаванага з выпадзеннем гука на месцы моцнага: беларускае *Віцебск*, рускае *Витебск*. Гэта адбылося пад уздзеяннем ускосных форм слова, у складзе якіх рэдукаваны суфікс *-ьб-* знаходзіўся, наадварот, у моцнай пазіцыі, а рэдукаваны суфікса *-ьск-* — у слабай: старажытнарускае *Витьбьску, Витьбьска* і інш. Такі вынік нефанетычнага развіцця рэдукаваных шырока вядомы сучасным усходнеславянскім мовам.

Старажытнарускай мове побач з рэдукаванымі ъ, ь уласцівы таксама рэдукаваныя *и, ы*, якія вымаўляліся як кароткія і невыразныя гукі верхняга пад'ёму на месцы спалучэнняў рэдукаваных ъ, ь з ётам (у старажытнарускім пісьменстве яны перадаваліся праз літары *ы, и*): старажытнарускія *густыи, шиꙗ, лии*. Размеркаванне слабай і моцнай пазіцый гэтых галосных адпавядае размеркаванню пазіцый рэдукаваных ъ, ь. Слабыя рэдукаваныя *и, ы* былі страчаны ва ўсіх старажытнарускіх дыялектах, але лёс гэтых гукаў у моцнай пазіцыі склаўся па-рознаму: у паўднёва-заходніх дыялектах на іх месцы развіліся галосныя *и, ы* (беларускія *густы, шыя, лі*, украінскія *густий, шия, лий*), а на паўночным усходзе — галосныя *о, э* (рускія *густой, шея, лей*).

У канцы 14 ст. завяршыўся працэс змянення старажытных рэдукаваных галосных, які меў і агульнарускія, і дыялектныя рысы. Галоўным вынікам гэтага працэсу было з'яўленне вялікай колькасці новых спалучэнняў

гукаў, зычных з зычнымі і галоснымі. Гэта было прычынай многіх дыялектных змен у галіне вакалізму і кансанантызму, якія ва ўмовах палітычнага і эканамічнага раз'яднання старажытнарускіх зямель спрыялі нарастанню моўнай раз'яднанасці і фарміраванню асобных сістэм усходнеславянскіх моў на аснове старажытнарускай моўнай сістэмы.

Сучасныя рэдукаваныя гукі, вядомыя рускай мове, не маюць этымалагічнай сувязі са старажытнарускімі рэдукаванымі, і іх рэалізацыя цалкам залежыць ад пазіцыі галосных няверхняга пад'ёму *э, о, а* адносна месца націску. У сучаснай беларускай мове рэдукаваныя не вымаўляюцца, таму тэмп беларускай гаворкі ў параўнанні з рускай крыху замаруджаны.

*Літ.:* Ф і л і н Ф. П. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. Л., 1972; Я н к о ў с к і Ф. М. Гістарычная граматыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1989; Я н о в и ч Е. И. Историческая грамматика русского языка. Мн., 1986.

*А. І. Яновіч.*

## РЭЛІГІЙНАЯ ЛІТАРАТУРА 18—20 ст.

«Кароткі збор хрысціянскай навукі для сялян рымска-каталіцкага веравызнання, што гавораць польска-рускай мовай» (Вільня, 1835) — першая друкаваная кніга рэлігійнага зместу каталіцкай арыентацыі на новай беларускай літаратурнай мове. Складальнік гэтай кнігі ўдзельнічаў у падрыхтоўцы выдання, пераклаў катэхізіс і малітвы з польскай мовы. Я. Ф. Карскі лічыў, што ім быў пратапоп (ксёндз), прафесар філасофіі і багаслоўя Віленскага універсітэта Міхал Баброўскі (паходзіў з Гродзеншчыны, кіраваў беларускім гуртком ва універсітэце). Але некаторыя моўныя асаблівасці катэхізіса (дысімілятыўнае яканне і аканне, канчатак дзеясловаў 3-й асобы на *-ць*, канчатак *-я* прыметнікаў ніякага роду назоўнага склону адзіночнага ліку — *дабро найбольшая*, адсутнасць прыстаўнога *г* у займенніку *гэты — у етай веры*) сведчаць пра тое, што перакладчык быў іншы — прадстаўнік паўночна-ўсходніх гаворак.

Асноўную частку кнігі (15 старонак з 24) займае «Катэхізіс», дзе ў форме пытанняў і адказаў выкладзены на беларускай мове асноўныя догматы хрысціянства. Далей (старонкі 16—19) на польскай мове прыводзяцца асноўныя малітвы «Ойча наш», «Верую», і 10 запаведзяў. Старонкі 19—24 змяшчаюць 2 малітвы на беларускай мове, 22—24 — распаўсюджаную на Беларусі з канца 18 ст. духоўную песню «О мой божа! Веру табе!». Усе тэксты надрукаваны лацінкай польскага варыянта. Спецыяльнага значка для перадачы *ў* няма. У пераважнай большасці выпадкаў яно перадаецца тым жа значком *u*, што і звычайнае *у* (*adkupiu, byu, naradziusia, praudziwy, u niebie, rounye*), або праз *в* (*cerkownaho, i usiakoje, hrachow, krow*). Літары *i, j* маглі ўжывацца для абазначэння аднаго і таго ж гука (*jak, jość* і *iak, iość*), на месцы *j* ужывалася і літара *y* (*pa praway ruce, duszoy swajey, ni wadnoy*). Аканне непаслядоўнае: у большасці выпадкаў ненаціскныя *о, э* перадаюцца праз *а* (*aciec, addau, adzin, czalawiek, papausia, paratawać, satwaryu*). У двух выпадках адлюстравана дысімілятыўнае аканне (*nizachoczyć, skażyć*). Непаслядоўнае і яканне: існуюць побач напісанні *ciapier, jaho, ciabie* і *abiecau, niebieskamu, pieremieniaitca*, а таксама шырока адлюстравана дысімілятыўнае яканне (*bida, biz żalu, bolij ni hraszyć, hdzie ina, karaić*). Частая замена *у* на *а* ў вінавальным склоне прыметнікаў жаночага роду (*dasi chwału wiecznaju*) — дысімілятыўная з'ява, уласцівая паўночна-ўсходнім гаворкам. Шэраг непаслядоўнасцей назіраецца і ў правапісе зычных: асіміляцыя (*kab* і *kap, nieadprawić* і *atprawić, chtoż nas, dli czahoż, sztoż tam* і *hdziesz jość, hdziesz budziec*). У інфінітывах і асабовых формах дзеясловаў перад зваротнай часціцай *ца* ў цяперашнім часе захоўваецца зычны *т* (*dastajutca, pieremieniaitca, spawiadatca, uwolnitca, uziatca, zawútca*). Нормай з'яўляюцца ў кнізе дзеканне і цеканне (*aciec, adżywieć, adpuścić, bielaść, być, choć, ci*). Прыстаўныя зычныя ўжываюцца ці як у жывым маўленні (*ni wadnoj, ni wadnaho*), ці адсутнічаюць там, дзе яны даўно зрасліся з коранем (*i uczyć*). У назоўніках ніякага роду пад уплывам польскай мовы перад былым *j* адсутнічае падваенне *н* (*adpuszczenie, prestuplienie, prykazanie, zbawienie*). Часціцы пішуцца злітна з папярэднім словам (*bylib, czyż, kaliż*); адмоўі па-рознаму (*nie ukryty, nie budzie*, і *nieadkupiu, niebyu*); прыназоўнікі асобна.



БОЖЫМ ШЛЯХАМ
МАЛІТАЎНІК ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ
РЫМ — 1946

**Малітоўнік для беларусаў «Божым шляхам» (тытульны ліст). Рым. 1946.**

КНІГІ СТАРОГА ЗАПАВЕТУ

**Кнігі Старога запавету. Кніга 1-я (тытульны ліст). ЗША. 1959.**

Больш-менш унармаваная марфалогія помніка. Назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з цвёрдай асновай у месным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак *-е-* (*u niebie, u piekle, u sakramiencie, na sim swiecie*), а назоўнікі з зацвярдзелай і мяккай асновай — *-у* (*na kryżu, na miejscu, pry skanczeniu*). Прыметнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку пераважна маюць скарочаны канчатак без *-й* (*syn boży, pan żywy, praudziwy, utajony światy, wieczny ahoń*); у месным склоне *-ым/-ім* (*u ciażkim hrechu, na każnym miejscu, u najświentszym sakramencie*). Прыметнікі і займеннікі жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку маюць аднаскладовы канчатак *-ай, -ой, -ей*; у творным склоне кароткі канчатак (*z światoj duszoj swajej*); у вінавальным склоне толькі поўны — *-ую* (*dobruju spowiedz adprawić, pakutu jakuju naznaczyć, śmierć swaju światuju*). Прыметнік у ролі выказніка ў назоўным склоне адзіночнага ліку мае кароткую і поўную формы (*spowiedź budzie nieważna, dusza ludzkaja jość nieśmiertelnaja, naznaczanaja byla pakuta*). Дзеясловы абодвух спражэнняў у 3-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга і будучага простага часу абвеснага ладу маюць у кнізе канчатак *-іць*




**«Праваслаўны малітаўнік» (вокладка). Беласток. 1990.**

*(adpuśćić, ni zachoczyć, nihaworyć, ni pacieszyć, dajeć, kapaić, możeć, pojdzieć, skażyć, wiedaić)*. Часціца *ні* пішацца дваякa — раздзельна і разам з дзеясловам, за выключэннем дзеяслова *быць*, які мае поўную *(budzieć, nie budzieć)* і кароткую *(budzie)* формы. Інфінітыў кароткай формы — на *-ць* за выключэннем фальклорнай «Песні» (дзе ёсць формы *życi, byci*). Дзеепрыслоўі ад дзеясловаў цяперашняга часу абодвух спражэнняў заканчваюцца на *-учы/-ючы (afiarujczy, pakutujuczy, wieruczy)*, а 2 выпадкі на галосны без *-чы (czy bajaś, czy stydziaś)* трэба разглядаць як вынік уплыву паўночна-ўсходніх гаворак.

Лексічны склад катэхізіса абумоўлены жанрам помніка: асноўнай царкоўнай лексіцы падпарадкаваны словы агульныя, хоць па колькасці лексем і больш шматлікія. Польскі лексічны ўплыў выяўляецца галоўным чынам у царкоўных тэрмінах *амэн, анёл, ялмужна* 'міласціна', *Езус, камунія, каплан, мша, найсвентшы, афяраванне, пасвяцене, змартвых устане*. Сустракаюцца і польскія словы, якія не з'яўляюцца ўласна царкоўнымі тэрмінамі: *ядыны, крулявацъ, нябескі, неамыльны, памысленe, вшехмагонцы, збавене* (лексічныя прыклады транслітарыраваны з лацінкі). Царкоўнаславянізмаў вельмі мала: *міласердзе, сатварыцель, сей* і іншыя. Самую вялікую групу складае агульная лексіка, якая стала прыналежнасцю беларускай мовы *(або, абяцаць, абразіць, асоба, бо, добра, ёсць, каб, кроў, крыж, паратаваць, праўдзівы, рэч, смак, трэба, трошкі, хвала, цяжкі)*. Дыялектызмы *(болі, даж, відзець, нетуці, жалець)* характэрны для паўночна-ўсходніх гаворак. З рускай мовы запазычаны словы *ацец, тот.*

Найбольш сістэмна рэлігійная літаратура на беларускай мове пачала з'яўляцца ў перыяд новай хвалі беларускага адраджэння ў 1910—20 гады. Умовы для гэтага стварылі адраджэнне беларускай мовы, выхад граматыкі Б. Тарашкевіча, стабілізацыя арфаграфіі і граматыкі. Менавіта ў гэты час былі зроблены першыя крокі да перакладу Новага запавету на сучасную беларускую мову. Баптысцкі прапаведнік Л. Дзекуць-Малей пераклаў Евангеллі (выходзілі асобнымі брашурамі ў Лодзі ў 1926—30 гг.). А. Луцкевіч адрэдагаваў гэтыя пераклады, паасобныя кнігі Новага запавету пераклаў сам. Вынікам гэтай працы стала выданне па-беларуску «Новага запавету і Псалмаў» (Гельсінгфорс, 1931; 2-е выд. Лондан, 1948; 3-е выд. Таронта, 1985). Арфаграфічныя нормы перакладу адпавядаюць граматыцы Б. Тарашкевіча: яканне ў прыназоўніку *без* і часціцы *не (ня слухаюць, ня былі, ня можа, ня прыйсьці)*; указальны займеннік *гэны*; ужыванне прыстаўнога *в (у вагні)*; асімілятыўная мяккасць зычных *(сьвятое, маемасьць, сьвятла, расьпіску, багацьцем, разьдзел, мучэньня)*. У запазычаннях — заходнееўрапейскае *і (Вавілён)*, *э* на месцы *е* ў пачатку слова *(эвангельле)*, адсутнічаюць аканне *(Іоанна)* і змякчэнне *(сынэдрыон, на гарэ Сыонэ, фарысэі)*. Граматыка перакладу адметная ў назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку перавагай канчаткаў *-у* ў родным склоне *(баяліся народу, з ахвярніку, з храму)*, жаночага роду множнага ліку *-аў (крыніцаў, плягаў, жывёлаў)*, мужчынскага роду множнага ліку ў творным склоне *-мі (каменьмі)*, у месным *-ох (на рагох)*.\ Прыметнікі і непрадметныя займеннікі жаночага роду адзіночнага ліку ў родным склоне перадаюцца з канчаткам *-ае (хвалы Божае, ад сілы Ягонае)*, займеннікі і лічэбнікі жаночага роду адзіночнага ліку ў месным склоне з канчаткам *-эй (на аднэй пасьцелі)*. Дзеясловы абвеснага ладу адзіночнага ліку 1-й асобы незалежна ад спражэння пішуцца з канчаткам *-е (няхай ня зыходзе)*, прошлага часу мужчынскага роду адзіночнага ліку з канчаткам *-эў (закрычэў, крычэў)*, будучага часу са злітнай формай дапаможнага дзеяслова *(трапіцьмуць, піціме)*, загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку на *-еце/-эце (пайдзеце, ідзеце, пакажэцеся, скажэце, пусьцеце)* побач з найбольш пашыранымі ў гаворках формамі на *-іце/-ыце (сьцеражыцеся, маліцеся)*. Незалежна ад спражэння выкарыстоўваліся дзеепрыслоўі з суфіксам *-учы (бачучы)*.

Пасля таго як пачаліся рэпрэсіі супраць духавенства, выданне рэлігійнай літаратуры на беларускай мове ў рэспубліцы было прыпынена. Але яно працягвалася беларускімі эмігрантамі і фактычна не перапынялася да нашага часу. Рэлігійная літаратура там выдаецца, як правіла, дарэформенным правапісам, кірыліцай ці лацінкай: гэта кананічныя тэксты, багаслоўскія трактаты, зборнікі царкоўных песень (Божым шляхам. Малітаўнік для беларусаў. Рым, 1946; Сьвятая Бібля. Нью-Йорк, 1973; Новае жыцьце ў Хрысьце / Склад. Рапецкі Юрка. Таронта, 1989; Беларускі праваслаўны малітаўнік. Кліўленд, 1990). Моўныя сродкі ў гэтых выданнях вызначаюцца ці канфесіяй (праваслаўная, каталіцкая ці уніяцкая), ці культурнай арыентацыяй аўтара або перакладчыка. Так, у праваслаўным выданні будзе *госпадзь*, у каталіцкім — *пан*. Пры супастаўленні рымскага (верагодна, уніяцкага) і беластоцкага малітоўнікаў для беларусаў паралелі адпаведныя: *бачанага — відзімага, нябачанага — нявідзімага, збаўленьня — спасеньня, уцелаўлёнага — уцелесьненага, унебаўшэдшага — узыйшоўшага ў нябёсы, супахвальнага — слаўленага.*

У 1980—90-я гг. пачаўся працэс нармалізацыі адносін паміж царквой і дзяржавай. Царква вяртаецца ў грамадскае жыццё. У мінулым канфіскаваныя храмы вяртаюцца вернікам, будуюцца новыя; ствараюцца новыя рэлігійныя абшчыны, царкоўныя прыходы. Узнавілася шырокае выданне царкоўнай літаратуры. У царкоўны ўжытак пачала ўводзіцца беларуская мова. Гэтаму садзейнічалі ўсебеларуская праграма «Родная мова», Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», адносная самастойнасць Беларускай праваслаўнай царквы. А. Клышка пераклаў на сучасную беларускую літаратурную мову Новы запавет: Евангеллі паводле Мацвея (Святое евангелле. Мн., 1991), Марка, Лукі (Спадчына. 1989, № 2—3; 1990. № 3—4; 1991. № 3—4). Выданне прызначана для праваслаўных, якія валодаюць беларускай мовай ці толькі пачалі яе вывучаць. Асноўныя царкоўныя тэрміны перадаюцца характэрнымі беларускімі лексічнымі сродкамі *(абрабаваць, авечка, апаганьваць, апантаны, ахвяра, ахвярны, вылечваць, гаспадар, знак, зняважа, казань, кісля, кош, крыж, рада, рошчына, святар, скарб, спадзявацца, спраўдзіцца, уратаваць, човен)*. Ёсць і царкоўнаславянізмы *(госпад, святыня, ліхі, уваскрэсенне)*, асобныя з іх ужываюцца ў значэннях, якія набылі ў беларускай мове *(благі* 'дрэнны, злы'). Адносна маладая беларуская літаратурная мова ў многім яшчэ не гатовая да адэкватнай перадачы біблейскага тэксту, таму перакладчык ужывае шэраг неалагізмаў: *выпладак* 'отродье', *пералюбны* 'извращённый'.

В. Сёмуха перакладае на беларускую мову Новы запавет (ужо

апублікаваны пераклад евангелля паводле Мацвея). Крокі Беларускай праваслаўнай царквы па беларусізацыі падтрымліваюць у асяроддзі радавога духавенства, праводзяць службы на беларускай мове.

Адроджаная ў эміграцыі Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква выдае дзесяткі рэлігійных кніг на беларускай мове. Яе дзеячы шукаюць паразумення з кіраўніцтвам праваслаўнай царквы на Беларусі ў напрамку беларусізацыі літургіі і аўтакефалізацыі Беларускай праваслаўнай царквы.

Ініцыятарамі беларусізацыі касцёла на Беларусі задоўга да нацыянальнага адраджэння 1980—90 гадоў выступілі каталіцкія святары (С. Блін, У. Завальнюк, Р. Каласоўскі, Т. Кандрусевіч, У. Пятрайціс, М. Сапель, К. Свёнтак, У. Чарняўскі). Новая грамадская арганізацыя Беларуская каталіцкая грамада садзейнічае беларусізацыі, разам з эміgranцкімі каталіцкімі арганізацыямі яна выдае пераклады беларускай царкоўнай літаратуры, малітоўнікі, канцыяналы. Папулярным сярод беларусаў-католікаў і праваслаўных стаў каталіцкі гімн «Магутны Божа» на словы паэтэсы-эмігранткі Н. Арсенневай.

Аднаўленая уніяцкая царква (айцец Ян Матусевіч) з самага пачатку карыстаецца ў набажэнстве беларускай мовай.

*Літ.:* Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968.

*У. М. Свяжынскі.*

## РЭФОРМА БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ 1933 ГОДА

Рэформа правапісу — гэта сацыяльна ўсвядомлены, заканадаўча аформлены грамадска-ўрадавы акт, скіраваны на перагляд арфаграфічных прынцыпаў і нормаў. Рэформу правапісу трэба адрозніваць ад частковых арфаграфічных змен, калі уніфікуюцца асобныя варыянтныя напісанні, ліквідуецца разнабой у некаторых правілах (але асноўныя прынцыпы правапісу не закранаюцца). Змены і спрашчэнні беларускага правапісу, якія былі праведзены ў 1933 г., мелі радыкальны характар, таму яны кваліфікуюцца як арфаграфічная рэформа беларускай мовы.

Рэформа правапісу — даволі складаны працэс. Пры яе правядзенні звычайна маюць значэнне самыя разнастайныя фактары як лінгвістычнага, так і пазалінгвістычнага характару. Галоўнымі з гэтых фактараў з'яўляюцца: наяўнасць больш-менш працяглых і ўстойлівых пісьмовых традыцый і пэўных, замацаваных практыкай пісьма нормаў правапісу; стан літаратурнай мовы, у прыватнасці яе стылявая дыферэнцыраванасць; дыялектная разгалінаванасць нацыянальнай (народнай) мовы і роля асобных дыялектаў у фарміраванні літаратурнай мовы; ступень тэарэтычнай (у тым ліку і эксперыментальнай) даследаванасці мовы, у першую чаргу яе гукавога ладу і марфалогіі; узровень развіцця нацыянальнай галіны мовазнаўства (напрыклад, беларусістыкі) і наяўнасць падрыхтаваных лінгвістычных кадраў; уплыў і ўлік асаблівасцей арфаграфічных сістэм блізкароднасных моў; усведамленне грамадствам неабходнасці і мэтазгоднасці рэформы арфаграфіі, стан грамадскай думкі, традыцыі культуры, спеласць нацыянальнай самасвядомасці; палітыка-ідэалагічныя фактары рознага тыпу (плюралізм поглядаў, свабода навуковых дыскусій, захаванне правоў чалавека і шмат іншага). Гэтыя фактары ў той ці іншай ступені вызначылі характар змен, прынятых рэформай беларускага правапісу 1933 г.

Сучасная беларуская арфаграфія бярэ свой пачатак з сярэдзіны 19 ст.— часу фарміравання новай беларускай літаратурнай мовы. Здабыткаў старога беларускага пісьменства новая літаратурная мова не атрымала зусім, таму адзінай яе апорай сталі жывыя беларускія гаворкі, на якія і арыентаваліся ў сваёй пісьмовай практыцы тагачасныя пісьменнікі. Беларуская мова не прызнавалася самастойнай, не выкарыстоўвалася ў школьным навучанні і афіцыйным ужытку. Ніякіх граматык ці нарматыўных беларускіх слоўнікаў у 19 ст. не было. Таму ў нешматлікіх тагачасных выданнях панаваў арфаграфічны і граматычны разнабой.

Пэўныя правілы правапісу пачалі складвацца ў першым дзесяцігоддзі (1906—15) легальнага функцыяніравання беларускага друку. Выданне першай легальнай беларускай газеты «Наша ніва», вакол якой групаваліся лепшыя нацыянальныя культурныя сілы, удзел у газеце карэспандэнтаў з розных куткоў Беларусі стваралі магчымасць замацавання ў якасці нормаў найбольш пашыраных моўных з'яў (гл. **«Наша ніва»**). Аднак гэтыя нормы не былі апісаны і адлюстраваны належным чынам, таму часта парушаліся.

Першыя спробы кадыфікаваць арфаграфічныя і граматычныя нормы беларускай мовы былі зроблены братамі. А. і Я. Лёсікамі, якія ў 1917 г. апублікавалі лацінскім шрыфтам дапаможнік «Як правільна пісаць па-беларуску», а ў 1918 г. на яго аснове выдалі «Беларускі правапіс». У гэты час выходзяць і іншыя дапаможнікі: «Беларуская граматыка» Б. Пачобкі, праект беларускай арфаграфіі «Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным» Р. Абіхта і Я. Станкевіча, але найбольш значным і ўдала распрацаваным сярод іх стала «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча, выдадзеная ў Вільні ў 1918 (пазней выйшла яшчэ шэсць выданняў гэтай граматыкі, гл. **«Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча**). Для школ савецкай Беларусі граматыка Б. Тарашкевіча была папулярызавана падручнікамі Я. Лёсіка.

Аднак к сярэдзіне 1920-х гадоў у сувязі з правядзеннем беларусізацыі (гл. **Беларусізацыя**), пашырэннем сфер выкарыстання беларускай мовы, павелічэннем колькасці людзей, якія сталі карыстацца беларускай мовай, выявіліся пэўныя недакладнасці граматыкі Б. Тарашкевіча. Некаторыя арфаграфічныя пытанні ў ёй былі недастаткова апрацаваныя, а асобныя правілы занадта складаныя.

Мэтанакіраваная рэгламентацыя і кадыфікацыя правапісу пачалася толькі ў 1920-я гады, калі беларуская мова набыла статус дзяржаўнай. Пашырэнне літаратурнай мовы ў розных сферах грамадскіх зносін патрабавала неадкладнай ліквідацыі правапісна-граматычнага разнабою.

Арфаграфічная дыскусія ў друку 1925—26 гг. выявіла шэраг нявырашаных пытанняў беларускага правапісу і графікі і неабходнасць іх рэфармацыі. Гэтае пытанне абмяркоўвала Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі 1926 г. (гл. **Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі**). Пастановы, прынятыя на канферэнцыі, сталі аўтарытэтным матэрыялам у справе кадыфікацыі правапісу, хоць яны і не мелі сілы закону. Для далейшай апрацоўкі правапісу ў кастрычніку 1927 г. пры Інбелкульце была створана спецыяльная правапісная камісія, у склад якой увайшлі С. Некрашэвіч (старшыня), Я. Лёсік, В. Ластоўскі, П. Бузук, І. Бялькевіч, Я. Купала, У. Чаржынскі, А. Багдановіч (сакратар). Камісія працавала па красавік 1929 г. Вынікам яе 33 пасяджэнняў стала выданне «Беларускі правапіс (праект). Апрацаваны Правапіснай Камісіяй БАН» (Мн., 1930), куды было ўключана 77 арфаграфічных правілаў. Вучоныя мелі намер у далейшым стварыць арфаграфічны слоўнік беларускай мовы. Але планы іх не ажыццявіліся з-за таго, што ў гэты час на Беларусі пачалася кампанія выкрыцця так званых «нацыянал-дэмакратаў», да якіх аднеслі і большасць членаў правапіснай камісіі. Выдадзены праект правапісу быў аб'яўлены «нацдэмаўскім» і трапіў на доўгі час у «спецсховы», а яго аўтары рэпрэсіраваны.

Але патрэбы практыкі настойліва дыктавалі неабходнасць упарадка-

ваць і спрасціць правапіс. У сакавіку 1930 г. Інстытут мовазнаўства прыступіў да падрыхтоўкі новага праекта правапісу. Закончаны і надрукаваны ў 1933 г., ён уключаў 84 правілы. Пасля абмеркавання на пасяджэннях калегіі Наркамасветы, на сходах навукова-педагагічнай грамадскасці, пісьменнікаў у яго былі ўнесены дадатковыя змены. У такім выглядзе ён і стаў асновай для Пастановы СНК БССР ад 26.8.1933 г. «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапіса». З улікам гэтай пастановы ў 1934 г. быў выдадзены разгорнуты і дэталёвы звод арфаграфічных правілаў «Правапіс беларускай мовы».

Урадавая пастанова змяшчала 23 палажэнні. Яны датычыліся пераважна тых правілаў, пры рэалізацыі якіх на практыцы існаваў разнабой. Пастанова складалася з пяці раздзелаў: правапіс галосных; правапіс зычных; правапіс слоў іншамоўнага паходжання; правапіс уласных імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў; марфалогія. Да яе прыняцця ў правапісе галосных найбольш складаным і спрэчным было пытанне перадачы на пісьме галосных у ненаціскных (слабых) пазіцыях. У беларускіх гаворках ненаціскны вакалізм вельмі разнастайны. Граматыка Б. Тарашкевіча замацоўвала фанетычны прынцып напісання галосных з даволі складанай формулай адлюстравання акання пасля мяккіх зычных: *я* ў першым пераднаціскным складзе пасля мяккіх зычных *(лязнік, вясна)*; у другім пераднаціскным складзе — паводле прынцыпу дысіміляцыі (распадабнення): калі ў першым пераднаціскным складзе галосны *а*, то ў другім *е (лесавік, цецярук)*, калі ж у першым галосныя *і, ы, у*, то ў другім пераднаціскным *я (лясуна, цяплыня)*; у іншых перад- і паслянаціскных складах — *е*.

На Акадэмічнай канферэнцыі 1926 г. абмяркоўваліся розныя праекты спрашчэння перадачы на пісьме акання. Праект братоў Я. і А. Лёсікаў пра поўнае аканне пасля мяккіх зычных (напісанне літары *я* на месцы *е* ва ўсіх ненаціскных складах) быў адхілены. Прынялі прапанову С. Некрашэвіча: у першым пераднаціскным складзе пасля мяккіх зычных пісаць *я*, ва ўсіх астатніх ненаціскных складах — *е*. Канферэнцыя ўхваліла прапанову Я. Лёсіка пра нязменнае напісанне (асобна) часціцы *не* і прыназоўніка *без (не быў, без вас, не прыйшоў)* незалежна ад месца націску.

Аўтары праекта 1930 г., абмеркаваўшы 5 розных варыянтаў правіла перадачы на пісьме ненаціскных галосных, у выніку прынялі прапанову Акадэмічнай канферэнцыі, але палічылі патрэбным падпарадкаваць правілу якання і напісанне часціцы *не* і прыназоўніка *без*: *бяз вáс, ня скáжам*, але *без мяне́, не скажу́*.

Урадавая пастанова 1933 г. (палажэнні I і II) замацавала правіла аб перадачы на пісьме акання ў такім выглядзе, як яно было прынята на канферэнцыі 1926 г.

Новы правапіс удакладняў напісанне прыстаўнога зычнага *в* перад націскнымі *о, у*, за выключэннем геаграфічных назваў: *восень, вусень*, але *Орша, Ула*.

Рэформа 1933 г. значна уніфікавала правапіс зычных, у аснове якога з самага пачатку развіцця новага беларускага пісьменства пераважаў фанемна-марфалагічны (традыцыйна яго называюць этымалагічным ці марфалагічным) прынцып. Сутнасць яго ў тым, што пазіцыйныя (асіміляцыйныя) змены зычных на пісьме не адлюстроўваюцца: «пішацца не так, як чуваць», г. зн. зычныя гукі слабых пазіцый незалежна ад вымаўлення абазначаюцца тымі ж літарамі, што і гукі моцных пазіцый, з якімі яны чаргуюцца ў складзе марфемы.

У граматыцы Б. Тарашкевіча гэты прынцып не паслядоўны. Асіміляцыйныя змены звонкіх — глухіх, змычных — афрыкат на пісьме не перадаюцца: *хлеб, малацьба, падтрымаць* (а не *хлеп, маладзьба, паттрымаць*), *матчын, матцы* (а не *маччын, маццы*), а пазіцыйныя змены цвёрдых — мяккіх, свісцячых — шыпячых на пісьме адлюстроўваюцца: *вясьне, сьпіць, чэскі, перапішчык*.

Аўтары правапіснага праекта 1930 г., кіруючыся ў асноўным прынцыпамі, вызначанымі Б. Тарашкевічам («фанетычны — для галосных, этымалагічны — для зычных»), пашыраюць іх і на іншыя злучэнні зычных. У прыватнасці, пасля працяглага ўсебаковага абмеркавання яны прапануюць не перадаваць на пісьме асімілятыўную мяккасць зычных: *лязнік, вясне, спіць* (у моцных пазіцыях яна знікае: *лясны, вясна, спаць*), не пісаць мяккі знак паміж падоўжанымі мяккімі зычнымі *(калоссе, жыццё* і *г. д.)*, пакінуць мяккі знак толькі для абазначэння этымалагічнай (уласнай) мяккасці, якая не знікае і перад цвёрдымі: *пісьменнік, касьбе* (бо *пісьмо, касьба*). Такую ж рэдакцыю гэтага правіла дае і праект 1933 г., што і замацавала пастанова СНК 1933 г.

Погляды членаў правапіснай камісіі 1930 г. на напісанне свісцячых— шыпячых на стыку марфем разышліся. Большасцю галасоў было прынята правіла: у злучэннях *сч, зч* на стыку прыстаўкі і кораня асіміляцыю па звонкасці — глухасці перадаваць, а асіміляцыю свісцячых — шыпячых не перадаваць *(бясчынства, счасаць)*. На стыку ж кораня і суфікса адзначаць асіміляцыю свісцячых — шыпячых, але асіміляцыю звонкага *ж* глухому не адзначаць: *перапішчык, прыкажчык*. Спалучэнні шыпячых — свісцячых *жс, шс* пісаць праз *с*: *чэскі, волскі*, але ў дзеясловах захоўваць без змен: *мыешся, не парэжся*. Відавочна гэта не спрашчала правапіс, бо павялічвалася колькасць правілаў, прычым пры адлюстраванні аднародных фанетычных з'яў даводзілася кіравацца рознымі прынцыпамі.

Частка членаў правапіснай камісіі прапаноўвала спрасціць правапіс гэтых спалучэнняў шляхам пашырэння фанемна-марфалагічнага (этымалагічнага) прынцыпу. Так, у заўвагах да праекта Я. Колас, Я. Лёсік раілі дзеля прастаты і зручнасці злучыць гэтыя правілы ў адно, сфармуляваўшы яго так: злучэнні двух зычных, калі першы належыць да кораня, а другі да суфікса, запісваюцца нязменна (этымалагічна). У прыватнасці, яны прапаноўвалі захоўваць спалучэнні *сч, зч*: *перапісчык, прыказчык, шс, жс: чэшскі, рыжскі* (тады не патрэбна выключэнне для дзеясловаў); спалучэнні *дс, тс*, як і *дч, тч*, запісваць этымалагічна: *людскі* (замест *людзкі* ці *люцкі*), *студэнтскі*.

Урадавай пастановай 1933 г. зацверджана правіла: зычныя *т, к, ц, ч* зліваюцца з суфіксальным *с* у *ц* *(сваяцкі, брацкі)*, а зычны *д* перад суфіксальным *с* захоўваецца *(гарадскі, суседства)*, замест напісанняў тыпу *гарадзкі*, што не адпавядала ні фанетычнаму, ні фанемна-марфалагічнаму прынцыпу. Зычныя *г, ж, з, к, ш* у геаграфічных назвах не зліваюцца з суфіксальным *с (волжскі, чэшскі)* і г. д. У беларускіх словах *ж* і *ш* перад суфіксальным *с* пісаць не рэкамендавалася *(мноства, таварыства)*.

Рэформа 1933 г. ўпарадкавала, паводле прапановы аўтараў Праектаў правапісу 1930 г. і 1933 г., ужыванне апострафа перад ётаванымі галоснымі для вызначэння раздзельнага вымаўлення зычнага з наступным галосным: *б'ю, з'еў, сям'я*, за выключэннем *л*, пасля якога трэба пісаць мяккі знак: *рэльеф, Васільеў*.

Пастановай рэгламентавалася адно з найбольш складаных і нераспрацаваных пытанняў беларускай арфаграфіі — правапіс іншамоўных слоў. Адсутнасць сталых пісьмовых традыцый і дэталёва распрацаваных правілаў, неакрэсленасць саміх прынцыпаў фанетычнага і арфаграфічнага асваення запазычанай лексікі вялі да значнага разнабою ў правапісе гэтых слоў.

Праблема уніфікацыі напісання іншамоўных слоў, у прыватнасці пытанне пра перадачу на пісьме ненаціскнога вакалізму, актыўна абмяркоўвалася ў арфаграфічнай дыскусіі 1920-х гадоў і на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу 1926 г., дзе былі розныя пункты погляду: ад прапановы пашырыць на запазычаныя словы прынцып поўнага акання (пісаць: *дапо, талягрáма*) да прапановы захаваць у іншамоўных словах ненаціскныя *о, е (композыцыя, професор, социалізм)*, як гэта ўжо склалася ў пісьмовай практыцы

1920-х гадоў. У выніку канферэнцыя прыняла прапанову С. Некрашэвіча пра пашырэнне на запазычаныя словы толькі пераходу *о* ў *а* *(прафесар, эканоміка, рэвалюцыя)*, за выключэннем слоў *радыё, бруто, какао,* дзе канцавое ненаціскныя *о, ё* захоўваюцца. Такую ж рэдакцыю даюць і аўтары абодвух праектаў правапісу, але дапускаюць пры гэтым і магчымасць ненаціскных *о, ё* ў словах малапашыраных: *рэномэ, блёкада.*

Урадавая пастанова 1933 г. таксама замацавала правапіс ненаціскных галосных у запазычаных словах паводле пастановы Акадэмічнай канферэнцыі 1926 г., аднак зрабіла выключэнне, абумоўленае, відавочна, пазамоўнымі прычынамі, для дзесятка «інтэрнацыянальных рэвалюцыйных слоў», на якія аканне не павінна пашырацца: *рэволюцыя, совет, большэвік* і г. д. Гэтае выключэнне як навукова беспадстаўнае і практычна неапраўданае пазней было адменена ўрадавай пастановай 1957 г.

У правапісе зычных у іншамоўных словах рэформа закранула найперш перадачу на пісьме цвёрдых — мяккіх зычных, у прыватнасці *l* еўрапейскага (гука, сярэдняга паміж беларускімі *ль* і *л*) і напісанне зычных у спалучэнні з галоснымі *е, і.* Паводле пісьмовай традыцыі 1920-х гадоў, якую прапаноўвалі замацаваць і аўтары праектаў 1930 і 1933 гг., *l* у пачатку і ў сярэдзіне слова перадавалася пераважна мякка *(клюб, кляса, пляцформа,* але *лацінка, лубін),* у канцы слова — мякка або цвёрда ў залежнасці ад вымаўлення *(заля, каруселя, аўтамабіль,* але *фабула, формула, ідэал).* Галосныя *е, і* у словах іншамоўнага паходжання перадаваліся пераважна праз *э, ы (мэтод, проспэкт, газэта, сыстэма).* Правіла гэта, аднак, мела выключэнні. Так, праект 1930 г. рабіў выключэнні для *л, к, х, г* (што з *g*), пасля якіх трэба пісаць *е: гэрб, гэрой,* або *геаграфія, анкета, парыкмахер.* Пасля *д, т, з, с* галосны *і* рэкамендавалася перадаваць праз *ы (сынонім, сымболь),* але ў суфіксах *-ійн-ы, -ізм, -іст-ы, -ij(а)* — пісаць *і (гімназісты, сэсія, марксізм, аказія)*; пасля *з, с, д(дз), т(ц)* — захоўваць *і* ў суфіксах *-ір, -ік (камандзір, білецік, эпізодзік)* і інш.

Праект 1933 г. памяншаў колькасць выключэнняў, рэкамендуючы пакінуць *е* толькі пасля *л,* а ва ўсіх астатніх выпадках пісаць *э: (гэрб, гэаграфія, гэстка, парыкмахэр).*

Адарванасць ад законаў беларускага вымаўлення, імкненне перадаваць іншамоўныя словы на «замежны» лад часта стварала ў моўнай практыцы пэўную арфаграфічную няўстойлівасць; назіралася непаслядоўнасць у афармленні гэтых слоў: *газэта,* але *экзempляр, кантынгент* і *канцінгент* і г. д.

Пытанне, ці захоўваць іншамоўнае аблічча запазычанняў, ці падпарадкоўваць яго фанетычнай сістэме беларускай мовы, урадавая пастанова 1933 г. вырашыла на карысць апошняй. Вызначальнымі фактарамі тут былі імкненне наблізіць правапіс запазычаных слоў да жывога беларускага вымаўлення і практыка афармлення гэтых слоў у рускай мове, дзе таксама праявілася тэндэнцыя руху нормы — ад цвёрдага «інтэлігенцкага» вымаўлення да мяккага (г. зн. у напрамку падпарадкавання нормам рускай мовы).

Рэформа 1933 г. замацоўвала перадачу *l* еўрапейскага ў іншамоўных словах згодна з традыцыйна пашыраным на Беларусі вымаўленнем, г. зн. пераважна цвёрда: *метал, алмаз, балкон.* Але ў тых выпадках, калі іншамоўнае *l* вымаўлялася мякка, пакідаць *л* мяккае: *аўтамабіль, асфальт, люстра* і г. д. Галосныя *ы, э* паводле ўрадавай прапановы рэкамендавалася пісаць толькі пасля *д, т* і зацвярдзелых зычных, ва ўсіх астатніх выпадках — *і, е: фізіка, сістэма, методыка, дырэктар* (замест *фызыка, сыстэма* і г. д.).

Новы правапіс ліквідаваў таксама варыянтнае напісанне слоў іншамоўнага паходжання з гукам *ф,* які перадаваўся як *ф, п, хв, х, т* (грэч. *th*). Аўтары праекта 1930 г. прапаноўвалі перадаваць грэчаскую Θ праз *ф,* а *th* — праз *Т: факт, фэст, тэатр, артаграфія, лягарытм.* Праект 1933 г. рэкамендаваў і *th* перадаваць праз *ф: арыфметыка, лагарыфм,* але: *тэатр, бібліятэка, катэдра.* Урадавая пастанова 1933 г. афіцыйна замацавала перадачу грэчаскага *фі* і часткова *фіта* праз *ф: форма, фабрыка, арыфметыка, арфаграфія,* але *тэатр, тэзіс, метад.* Такія напісанні падтрымліваліся аналагічным афармленнем гэтых слоў у рускай мове.

Паводле пастановы 1933 г. *тр, др* у канцы іншамоўных слоў пачалі перадавацца без змен. Праект 1930 г. рэкамендаваў пісаць *літар, цыліндар,* дапускаючы, аднак, і напісанні: *кадр, дыяметр, аэрометр.* Назоўнікі тыпу *пралетары, бары, алюміні* замяняліся формамі *барый, алюміній* і падлягалі скланенню па тыпу назоўніка *май.* Замацоўваюцца таксама формы назоўнікаў са значэннем асобы з суфіксам *-іст,* якія першапачаткова ўжываліся ў беларускіх выданнях як назоўнікі з нулявымі канчаткамі *(сацыяліст, журналіст),* а пазней, да сярэдзіны 1920-х гадоў, сталі афармляцца паводле прыметнікавага скланення *(марксісты, марксістага, марксістаму).* Такім чынам, у адрозненне ад асноўных палажэнняў першых 2 раздзелаў урадавай пастановы (правапіс галосных і зычных у беларускіх словах), якія вынікалі з арфаграфічных канцэпцый папярэднікаў, правілы напісання іншамоўнай лексікі значна разыходзяцца з прапановамі беларускіх мовазнаўцаў 1920-х гадоў, якія імкнуліся перадаваць запазычанні бліжэй да мовы-крыніцы. Рэформа 1933 г. ў большай ступені падводзіла напісанне запазычаных слоў пад агульныя правілы беларускага правапісу.

Пастанова 1933 г. рэгламентавала таксама правапіс уласных імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў. Упершыню правапіс слоў гэтага разраду разглядаўся ў1930 г. правапіснай камісіяй, якая зыходзіла з падзелу гэтай лексікі на 3 групы: 1) беларускія ўласныя імёны запісваць беларускім правапісам з захаваннем мясцовых асаблівасцей *(Стралкоўскі, Рабцэвіч, Ганчарэнка).* У дакументах і афіцыйным абыходку замест памяншальных *Ясь, Ігнась* і г. д. ужываць поўныя формы *Ян, Іван, Базыль, Васіль, Міхаіл* і *Міхал* і г. д.; 2) іншаславянскія імёны запісваць беларускім правапісам з перадачай акання, зацвярдзелых, дзекання, цекання, *ў* замест *в (Катлярэўскі, Ціханаў, Шаўчэнка).* Іншая фанетызацыя не дапускалася: *Талстой,* а не *Таўсты, Пазднышаў,* а не *Познышаў, Счастліўцаў,* а не *Шчасліўцаў* і г. д.; 3) неславянскія імёны пішуцца паводле прынятага ў беларускай мове напісання іншамоўных слоў.

Пастанова 1933 г., замацоўваючы 1-ы і 3-і пункты правіла ў такой самай рэдакцыі, рэкамендуе і правапіс іншаславянскіх імён падпарадкаваць правілам, прынятым для іншамоўных агульных імён (перадаваць аканне, але з захаваннем *э/е*): *Шэўчэнка, Чэрнышэўскі.* Акрамя таго, пастанова ўключае яшчэ палажэнне, якое супярэчыць папярэднім правілам: «імёны іншых моў і геаграфічныя назвы не перадаваць як у поўным напісанні, так і ў скарочаным; захоўваць пачатковыя *О, В, Т, Сч: Орджанікідзе, Терэхаў, Владзікаўказ».* Гэтая супярэчлівая норма таксама адменена ў 1957 г. Рэформа 1933 г., такім чынам, не здымала праблемы правапісу ўласных імёнаў. У пэўнай ступені гэта абумоўлена тым, што сама праблема даволі складаная. У ёй перакрыжоўваюцца фактары аб'ектыўныя і суб'ектыўныя, уласна лінгвістычныя і пазамоўныя (ідэалагічныя, нацыянальныя, эстэтычныя і інш.), і сёння яшчэ пытанні транслітэрацыі запазычаных уласных імён у беларускай мове далёка не вырашаны і патрабуюць далейшай рэгламентацыі.

Распрацоўка новага правапісу выйшла за межы ўласна арфаграфіі і закранула таксама некаторыя пытанні марфалогіі. Пытанні граматычнай нармалізацыі, у прыватнасці правапісу канчаткаў зменных часцін мовы, заставаліся актуальнымі і пасля выдання граматыкі Б. Тарашкевіча. Неабходна было распрацаваць сістэму адзіных граматычных норм шляхам адхілення варыянтаў вузкадыялектнага паходжання. Аднак не ўсе нормы, кадыфікаваныя рэформай,

вытрымалі праверку часам. Некаторыя з іх былі адменены пастановай 1957 г.

Так, новы правапіс у адпаведнасці з граматычнай традыцыяй вызначаў межы ўжывання канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду *-а, у* ў родным склоне адзіночнага ліку ў залежнасці ад семантычных і граматычных прыкмет назоўніка. Але перавага аддавалася канчатку *-а*. Са сферы выкарыстання канчатка *-у* выключаліся назвы грамадскіх фармацый, а таксама вучэнняў, хімічных элементаў, хоць у мове існавала традыцыя ўжываць апошнія з канчаткам *-у*. Гэта правіла было ўдакладнена ў 1957 г.

Рэформа 1933 г. уніфікавала націскныя і ненаціскныя канчаткі назоўнікаў у давальным і месным склонах множнага ліку. Замест паралельных форм тыпу *калёсам, аб калёсах*, але *палём, братом, аб палёх, аб братох* уводзіліся формы *калёсам, братам, палям, аб калёсах, братах, палях*.

Не вытрымалі праверкі часам і пазней былі адменены уніфікаваныя рэформай 1933 г. склонавыя формы лічэбнікаў мужчынскага і жаночага роду: *два, дзве*, але для абодвух родаў: *двум, двух* і г. д., а таксама замацаваныя ў якасці літаратурнай нормы вузкадыялектныя формы дзеясловаў 2-й асобы множнага ліку на *-эце (-еце): ідзеце, нясеце, вядзеце*. Выключаны былі формы тыпу *бераце, несяце* і г. д.

Пастанова 1933 г. зацвярджала ў дзеясловаў загаднага ладу ў множным ліку толькі формы тыпу *станьма, кіньма, станьце, кіньце*, а таксама замацоўвала ўжыванне дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу на *-учы (-ючы), -ачы (-ячы)*.

Арфаграфічная рэформа 1933 г. ў гісторыі беларускага мовазнаўства і беларускай культуры — з'ява неадназначная. З аднаго боку, выкліканая патрэбамі тагачаснай моўнай практыкі, яна ў значнай ступені абагульніла і рэалізавала здабыткі беларускага мовазнаўства 1920-х гадоў. Многія правілы, замацаваныя рэформай, былі прапанаваны і апрацаваны вучонымі — членамі арфаграфічнай камісіі 1920-х гадоў. Створаныя на аснове рэформы «Правапіс беларускай мовы» (1934) пэўным чынам сістэматызавалі правапіс, спрыялі стабілізацыі арфаграфічных нормаў беларускай мовы. З другога боку, рэформа, як і іншыя з'явы грамадскага жыцця, падпала пад моцны палітыка-ідэалагічны уплыў. У адрозненне ад падрыхтаванага ў 1929 г. праекта правапісу многае ў правапісе 1933 г. было абумоўлена пазалінгвістычнымі, палітычнымі меркаваннямі. Ва ўмовах узятага кіраўніцтвам краіны курса на барацьбу з «нацдэмамі», на збліжэнне народаў і зліццё іх культур у адну культуру з адной агульнай мовай важным стала не так адлюстраваць нацыянальную спецыфіку беларускай мовы, як прывесці правапіс у адпаведнасць з рускай арфаграфічнай традыцыяй. Таму і пасля рэформы ў беларускім правапісе заставалася многа нявырашаных пытанняў, супярэчлівых напісанняў.

З мэтай далейшага ўпарадкавання беларускага правапісу ў канцы 1930-х гадоў распачалася арфаграфічная дыскусія, якая працягвалася і пасля вайны. Арфаграфічныя пытанні абмяркоўваліся таксама на спецыяльных канферэнцыях АН БССР у 1950 і 1952 гг. Вынікі абмеркавання паказалі, што беларускі правапіс у асноўным правільна адлюстроўвае заканамернасці беларускай літаратурнай мовы і таму не патрабуе новай рэформы. Неабходны толькі частковыя змены і ўдакладненні асобных правілаў. Арфаграфічная камісія на чале з Я. Коласам і К. Крапівой распрацавала «Праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу» (апублікаваны ў 1951 г., дапрацаваны ў 1956 г.), які быў зацверджаны ў маі 1957 г. спецыяльнай пастановай Савета Міністраў БССР «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу». Пастанова датычылася пераважна тых правілаў, якія былі недасканала распрацаваны рэформай 1933 г. і заставаліся крыніцай арфаграфічнага разнабою. Так, было пашырана аканне на ўсе словы, незалежна ад паходжання. Канцавое *о* стала захоўвацца толькі пасля галосных *(адажыо, трыо)*. Было ўдакладнена напісанне *д, т* і *дз, ц* у словах іншамоўнага паходжання. Больш дасканала быў распрацаваны правапіс складаных слоў, раздзяляльнага мяккага знака і апострафа. Пастанова рэгулявала і некаторыя пытанні граматыкі, нявырашаныя рэформай 1933 г., у прыватнасці ўжыванне канчаткаў назоўнікаў, дзеясловаў і іншыя.

З улікам пастановы 1957 г. ў 1959 г. быў выдадзены збор правілаў беларускай арфаграфіі. Для далейшай стабілізацыі правапісу вялікае значэнне мелі выданні нарматыўнай «Граматыкі беларускай мовы» (т. 1, 1962) і «Беларускай граматыкі» (ч. 1, 1985), «Арфаграфічнага слоўніка» М. Лобана і М. Судніка (1 выд., 1961; 6 выд., 1990), дапаможніка «Беларуская мова. Арфаграфія» Я. Камароўскага (1972), нарматыўнага «Слоўніка беларускай мовы» (1987) і іншых.

Са зменай палітычнай сітуацыі ў канцы 1980-х гадоў, калі Беларусь стала незалежнай, суверэннай дзяржавай, калі сталі пашырацца сферы выкарыстання беларускай мовы, павялічвацца кола яе носьбітаў, пытанні аб новым удакладненні і ўдасканаленні правапісу зноў сталі на парадак дня. На старонках перыядычных выданняў разгарнулася арфаграфічная дыскусія, у ходзе якой выказваліся прапановы перагледзець усё тое, што было зроблена ў 1933 г. Некаторыя найбольш радыкальна настроеныя дыскутанты наогул прапаноўваюць вярнуцца да правапісу 1920-х гадоў. Асобныя газеты і часопісы пачалі змяшчаць матэрыялы, надрукаваныя паводле правапісу Б. Тарашкевіча.

З мэтай абмеркавання стану беларускага правапісу ў цэлым і аналізу тых канкрэтных пытанняў, якія найбольш часта былі аб'ектам дыскусіі ў перыядычным друку (гэта абазначэнне на пісьме асімілятыўнай мяккасці зычных, правапіс *не/ня* і *без/бяз*, правапіс *і/й*, правапіс іншамоўных слоў і інш.), Інстытутам мовазнаўства АН Беларусі сумесна з Міністэрствам адукацыі, Саюзам пісьменнікаў, Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны была арганізавана рэспубліканская навуковая канферэнцыя «Праблемы беларускага правапісу». Яна праходзіла 19—20 лістапада 1992 г. ў Мінску. Канферэнцыя прыняла пастанову, у якой адзначаецца, што ўдзельнікі канферэнцыі лічаць пастанову СНК «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» фактам палітычнага ўмяшання ў моўны працэс. Азначаецца таксама мэтазгодным стварыць рабочую камісію, якая павінна падрыхтаваць праект удакладненняў правапісу. Да прыняцця ўдакладненага правапісу мэтазгодна карыстацца правіламі 1959 г., не дапускаючы адхіленняў у афіцыйных выданнях і школьнай практыцы.

*Літ.:* Працы Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мн., 1926; Беларускі правапіс (праект). Апрацаваны правапіснай камісіяй Беларускай Акадэміі навук. Мн., 1930; Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапіса. Пастанова СНК БССР. Мн., 1933; Праект спрашчэння беларускага правапісу. Мн., 1933; Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы. Мн., 1934; Сямешка Л. Навошта блытаць чалавека з пашпартам?//Наст. газ. 1989. 10—17 чэрв.; Яе ж: У 1933-м і пазней // Наша слова. 1991. 19 чэрв.— 16 ліп.; Шчэрбін В. Факты і міфы. Рэформа беларускага правапісу 1933 года // Бел. мова і літ. ў школе. 1989 № 9; Падлужны А. Работа над памылкамі 1933-га // Тамсама. 1991, № 3—4; Жураўскі А. Рэформа правапісу: як гэта было // Наст. газ. 1991.5—12 чэрв.; Запрудскі С. Развітанне з міражамі // Тамсама. 1992. 14 ліст.; Лыч Л. Моўная рэформа 1933 года. Ідэалагічны аспект. Мн., 1993.

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Дзе мой край? Там, дзе вечную песню*
*пяе Белавежа,*
*Там, дзе Нёман на захадзе помніць*
*варожую кроў,*
*Дзе на ўзвышшах Наваградскіх*
*дрэмлюць суровыя вежы*
*І вішнёвыя хаты глядзяцца*
*ў шырокі Дняпро...*
*Там звіняць неўміручыя песні*
*на поўныя грудзі,*
*Там спрадвеку гучыць мая мова —*
*булатны клінок.*
*Тая гордая мова, якую й тады*
*не забудзем,*
*Калі сонца з зямлёю ў апошні*
*заглыбяцца змрок.*

Уладзімір Караткевіч



*С — дзевятнаццатая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай С («слова»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай Σ («сігма»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* с, с' (садъ, сено). *Мела таксама лічбавае значэнне «дзвесце». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваецца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумныя глухія фрыкатыўныя пярэднеязычныя зычныя гукі* с, с' (сасна, сініца — *«с'ін'іца»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную формы. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (СП, СНД), як умоўнае скарачэнне слоў «старонка»* (с. *37*), *«сяло»* (с. *Мольнічы*). *Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «васемнаццаты» (група «С»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 3с).* *А. М. Булыка.*

## САЦЫЯЛЬНА-ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ, АБО САЦЫЯЛАГІЧНАЯ, КЛАСІФІКАЦЫЯ МОЎ

Гэта класіфікацыя моў, як і іншыя (гл. **Арэальная класіфікацыя моў, Генеалагічная класіфікацыя моў, Тыпалагічная класіфікацыя моў**), мае свае ўласныя падставы і мэты. Яны ляжаць за межамі самой мовы і вызначаюцца сацыялогіяй — навукай, якая вывучае з'явы і працэсы сумеснага жыцця людзей (уключаючы і мовы), структуру і змяненні розных чалавечых аб'яднанняў (соцыумаў). Ніводзін соцыум — ад асобнай сям'і і да чалавецтва ў цэлым — не можа існаваць без зносін, а значыць і без мовы. Роля мовы і асобных моў у жыцці людзей, іх функцыі ў розных соцыумах, моўныя патрэбы асобы і грамадства і ляжаць у аснове сацыяльна-функцыянальнай класіфікацыі. Такая класіфікацыя з'яўляецца адной з задач спецыяльнай мовазнаўчай навукі — сацыялінгвістыкі (гл. **Сацыяльная лінгвістыка, Мова і грамадства**). Аднак сацыяльна-лінгвістычнымі паняццямі і катэгорыямі карыстаюцца не толькі спецыялісты-мовазнаўцы, але і кожны, хто робіць спробу ахарактарызаваць мову праз пэўныя асаблівасці яе ўжывання з дапамогай такіх выразаў, як мова палітыкі, мова навукі, тайныя мовы, мова пісьменніка, жывыя і мёртвыя мовы, сямейная мова, мова кахання і да т. п. Да тэрмінаў жа ўласна сацыялінгвістычных адносяцца такія добра вядомыя словаспалучэнні, як мовы натуральныя і штучныя, літаратурныя і народна-размоўныя, рэгіянальныя і сусветныя, асноўныя і дапаможныя, пісьмовыя і беспісьмовыя і г. д.

Спробы даць больш-менш дасканалую сацыяльна-функцыянальную класіфікацыю моў рабіліся неаднаразова. Але завершанага сацыялагічнага іх падзелу пакуль не існуе. Адна з прычын гэтага ў тым, што для вычарпальнай класіфікацыі трэба браць пад увагу мноства розных пастаянных і зменлівых фактараў. У большасці ж выпадкаў даследчыкі абмяжоўваліся толькі некаторымі з іх, што заўсёды вядзе да непаўнаты ці аднабаковасці сістэматызацыі моўных з'яў. Напрыклад, можна спаслацца на некаторыя класіфікацыі, прапанаваныя замежнымі лінгвістамі. Так, А. Марцінэ вылучае дыялекты, мовы мясцовага значэння, малапашыраныя мовы і мовы-пасрэднікі; У. Сцюарт і Ч. Фергусан — асноўныя, другарадныя і спецыяльныя мовы, а таксама неўнармаваную родную мову, унармаваную родную мову, унармаваную, але не ўжывальную ў цяперашні час, мяшаную мову (тыпу піджын), штучную і маргінальную мовы; Дж. Гамперц — субрэгіянальныя і рэгіянальныя мовы, мовы сацыяльных і прафесіянальных груп, рэлігійныя і адміністрацыйныя коды; Я. Найда і У. Уондэрлі — мовы ўнутрыгрупавых зносін, пазагрупавой камунікацыі, спецыяльнай інфармацыі і г. д.

Найбольш істотныя крытэрыі, якія павінны быць улічаны пры стварэнні максімальна поўнай сацыяльна-функцыянальнай класіфікацыі вядомых чалавецтву моў (і шырэй — знакавых камунікатыўных сістэм), такія:

— натуральныя мовы ў іх адносінах да іншых знакавых сістэм (да «моў» музыкі, архітэктуры, жывапісу і іншых відаў мастацтва, да «моў» — кодаў жывёльнага свету, жывой прыроды і г. д.);

— мовы натуральныя і штучныя (алгарытмічныя мовы, дапаможныя мовы тыпу эсперанта і падобныя);

— мовы жывыя і зніклыя («мёртвыя» — латынь, старажытнагрэчаская, санскрыт, хецкая, лідыйская, венецкая, гоцкая, ілірыйская, агульнаўсходнеславянская і інш.);

— жывыя мовы ў залежнасці ад колькасці іх носьбітаў (кітайская, англійская, хіндустані, іспанская і г. д.);

— культурна-гістарычная роля моў (сусветныя мовы — найперш мовы ААН: англійская, французская, кітайская, іспанская, руская, арабская, а таксама японская, нямецкая, італьянская, хіндустані і г. д.);

— мовы ў залежнасці ад іх грамадскіх функцый, сацыяльных умоў

і форм існавання, сфер і асяроддзяў пашырэння і выкарыстання. Пры гэтым маецца на ўвазе, што функцыя — гэта мэта, форма існавання — від мовы, асяроддзе — гэта ўмова, а сфера — галіна яе прымянення. Можна вылучыць некалькі асноўных сфер функцыяніравання моўных утварэнняў рознага тыпу: у сферы дзяржаўных зносін — літаратурная мова ў мананацыянальнай дзяржаве, мова міжнацыянальных зносін — у шматнацыянальнай дзяржаве або ў іншым поліэтнічным утварэнні; а таксама мова міждзяржаўных зносін; сфера рэгіянальных зносін дазваляе вылучыць наддыялектнае кайнэ, нацыялект (тыпу рускай мовы на Беларусі, у Малдове і г. д.); у сферы мясцовых зносін — дыялекты, мовы нацыянальных меншасцей; у сферы вытворчасці — спецыялізаваныя «падмовы» нацыянальнай мовы, тэрмінасістэмы розных навук, зніклыя мовы ў спецыяльных функцыях (напрыклад, латынь у сярэдневяковай Еўропе); у сферы сямейна-бытавых зносін — мясцовыя гаворкі, прастамоўе, жаргон, ідыялект — мовы асобы, замежныя мовы і мовы нацыянальных меншасцей у пэўных выпадках; у сферы рытуальных зносін — нацыянальныя літаратурныя мовы, «мёртвыя» мовы; у сферы навучання выкарыстоўваюцца нацыянальная літаратурная мова і мовы замежныя.

Грамадскі статус мовы, яе месца ў сацыяльна-функцыянальнай класіфікацыі знаходзяць адбітак у самасвядомасці этнасу, у сацыяльнай псіхалогіі народа, у моўнай палітыцы і моўным будаўніцтве, якія ажыццяўляюцца дзяржавай. Невыпадкова ў многіх краінах здаўна, а ў рэспубліках, што складаюць зараз Садружнасць Незалежных Дзяржаў, у недалёкія мінулыя гады былі прыняты спецыяльныя дзяржаўныя акты — законы аб мовах, што рэгулююць грамадскія адносіны ў моўна-нацыянальнай сферы.

Кароткая сацыяльна-функцыянальная характарыстыка беларускай мовы зводзіцца да наступнага. Яна займае 76-е месца ў свеце па колькасці носьбітаў, з'яўляецца мовай асноўнага насельніцтва і дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь. За межамі краіны яна прадстаўлена рознымі па колькасці носьбітаў групамі насельніцтва ў Польшчы, Расіі, Канадзе, ЗША, Аргенціне, Аўстраліі і інш. Беларуская мова мае багатае гістарычнае мінулае, старажытныя пісьмовыя традыцыі і зараз абслугоўвае разнастайную высокаразвітую культуру, выконвае шматлікія функцыі ў галіне грамадска-дзяржаўнага будаўніцтва. У межах агульнанацыянальнай мовы існуюць яе дыялекты і дыялектныя зоны, а таксама літаратурная мова ў яе вуснай і пісьмовай разнавіднасцях. Літаратурная мова абслугоўвае сферы гаспадарчай і грамадска-палітычнай дзейнасці людзей, іх побыт, навучанне, мастацкую творчасць, навуку, справаводства, асабістую перапіску, масавую інфармацыю. Яна выкарыстоўваецца ў вытворчым, сямейным, групавым, рэгіянальным і іншых асяроддзях.

Сацыяльна-функцыянальная класіфікацыя моў найбольш рухомая ў параўнанні з іншымі класіфікацыямі, паколькі яна адлюстроўвае імклівыя зрухі ў грамадскім жыцці людзей.

*Літ.:* Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Міхневіч А. Я. Да характарыстыкі беларускай літаратурнай мовы ў яе сучасным стане // Slavia, 1984. № 3—4; Яго ж. Язык, которого нет... Мн., 1988; Бондалетов В. Д. Социальная лингвистика. М., 1987.

*А. Я. Міхневіч.*

## САЦЫЯЛЬНАЯ ЛІНГВІСТЫКА

Сацыяльная лінгвістыка — навуковы кірунак, які вывучае мову ў яе разнастайных адносінах да грамадства, тых ці іншых калектываў яе носьбітаў, сацыяльных умоў яе выкарыстання. Калі грамадства параўнаць з жывым арганізмам, то мову ў такім выпадку можна назваць нервовай сістэмай, паколькі менавіта яна ажыццяўляе ў арганізме сувязі паміж яго клеткамі, а ў грамадстве такую ж ролю паміж людзьмі выконвае мова. Вядучая, камунікатыўная, функцыя мовы з'яўляецца па сваёй прыродзе сацыяльнай. Чалавек як жывая асобіна адрозніваецца ад усіх астатніх істот на Зямлі тым, што ён валодае мовай. Само паходжанне чалавека, станаўленне яго на ўсіх этапах гэтага складанага працэсу стала магчымым дзякуючы мове. Бадай самай яскравай прыкметай такіх найбольш вялікіх сацыяльных груп людзей, як нацыя служыць тое, што кожная з іх мае сваю мову. А тыя нацыі, якія ўзніклі адносна нядаўна (ЗША, Канада, Аўстралія і інш.) у выніку масавай міграцыі насельніцтва ці іншых сацыяльных з'яў (змены палітычных граніц, войны) і якія выкарыстоўваюць другія нацыянальныя мовы (у дадзеным выпадку англійскую), маюць свае моўныя асаблівасці.

Нацыянальная мова існуе і функцыяніруе ў выглядзе некалькіх разнавіднасцей (вусная і пісьмовая, літаратурная і прастамоўная, дыялектная і агульнаўжывальная і інш.). Асноўная прычына гэтага — адпаведныя сацыяльныя ўмовы і сацыяльнае расслаенне грамадства. Напрыклад, сацыяльны факт, што людзі раней жылі на ізаляваных тэрыторыях у межах асобных феадальных княстваў, адбіўся на мове ў выглядзе яе дыялектнага члянення. Расслаенне грамадства паводле роду заняткаў ці дзейнасці прывяло да ўзнікнення стыляў, сацыяльных жаргонаў.

У шматнацыянальных дзяржавах узнікае такая актуальная і вострая сацыяльная праблема, як выкарыстанне адзінага сродку зносін паміж людзьмі. Звычайна такім сродкам становіцца якая-небудзь жывая мова ці мова-пасрэднік. У былым СССР мовай-пасрэднікам з'яўлялася руская. У сваю чаргу шырокае выкарыстанне гэтай мовы ў нацыянальных рэспубліках, краях, абласцях стварала сацыяльную базу для ўзнікнення білінгвізму (двухмоўя). Падобная сітуацыя характэрна, у прыватнасці, для нашай рэспублікі, дзе гэта лінгвасацыяльная з'ява масавая, паколькі амаль кожны беларус валодае рускай мовай ці, прынамсі, добра яе разумее. Больш таго, руская мова выцесніла беларускую з некаторых сфер культурнага і інтэлектуальнага жыцця рэспублікі (тэхнічнай, юрыдычнай, канцылярска-справавой, пераважна і навуковай), а ў вялікіх гарадах яна выкарыстоўваецца як асноўны сродак зносін. Пасля ўтварэння БНР беларуская мова ў гэтых сферах сама з поспехам спраўлялася з выкананнем сваіх функцый. Зараз грамадскасць рэспублікі робіць захады, кабаднавіць у поўным аб'ёме яе сацыяльную ролю.

Да сацыялінгвістычных праблем адносяцца і пытанні міжнацыянальных моўных зносін розных дзяржаў. Пакуль што найбольш пашыраным сродкам такіх зносін выступае адна з жывых нацыянальных моў (пераважна англійская, руская, іспанская, французская, арабская, ці так званыя сусветныя мовы). Робяцца спробы выкарыстаць штучныя мовы тыпу эсперанта, інтэрлінгва для зносін паміж разнамоўнымі людзьмі.

Сацыялінгвістычнымі па сваёй прыродзе з'яўляюцца пытанні нармавання літаратурнай мовы, стварэння пісьменства, прапаганда культуры мовы. Падобныя пытанні звязаны са свядомым уплывам грамадства на мову і ствараюць прадмет моўнай палітыкі. Свядома могуць складацца не толькі пісьменства, але і асобныя пласты лексікі, напрыклад, тэрмінасістэмы.

Да кампетэнцыі сацыяльнай лінгвістыкі адносяцца асаблівасці выкарыстання мовы грамадствам ці асобнымі яго групамі, функцыяніраванне мовы ў канкрэтных сацыяльных абставінах і ўплыў, які аказваюць гэтыя абставіны на мову. Так, акрамя сітуацыі білінгвізму, якая ўзнікла на Беларусі ў выніку сацыяльных абставін, можна назіраць і змешванне моў на граніцах рэспублікі з нашымі суседзямі, г. зн. ужыванне ў маўленні беларусаў на роднай мове адпаведна элементаў польскай, літоўскай, рускай, украінскай моў. У гэтым выпадку ствараецца такая сітуацыя, што, напрыклад, карэнныя жыхары некаторых раёнаў Палесся лічаць, што яны гавораць не на беларускай і не на ўкраінскай мовах, а на асобай палескай мове, у якой

элементы дзвюх блізкароднасных моў перамяшаны і выкарыстоўваюцца настолькі арганічна, што паміж імі ў свядомасці носьбітаў мовы немагчыма правесці нейкія межы. Сацыяльныя прычыны ляжаць і ў аснове розных змешаных моў, накшталт крэольскіх, якія існуюць у буйных партовых гарадах у выніку змешвання англійскай мовы і мовы карэнных жыхароў індыйскіх ці афрыканскіх краін.

Значыць, сацыяльная лінгвістыка мае выхады на ўсё жыццё грамадства, на навуку, адукацыю, культуру, палітыку, ідэалогію — менавіта на тыя яго бакі, дзе чалавек жыве і дзейнічае як сацыяльная істота.

На Беларусі вытокі сацыялінгвістычных даследаванняў бяруць пачатак ад прац Я. Ф. Карскага і П. А. Бузука. Пытанні сацыяльнай лінгвістыкі распрацоўваюць А. Я. Міхневіч, В. К. Шчэрбін, А. А. Лукашанец і іншыя.

*Літ.:* Белл Р. Т. Социолингвистика: Цели, методы и проблемы. М., 1980; Бондалетов В. Д. Социальная лингвистика. М., 1987; Вайнрайх У. Языковые контакты. Киев, 1979; Лукашанец А. А., Михневич А. Е., Щербин В. К. Общество — язык — политика. Мн., 1988; Новое в лингвистике. Вып. 7. Социолингвистика. М., 1975. *Б. А. Плотнікаў.*

## САЧАНКА БАРЫС ІВАНАВІЧ



Б. І. Сачанка нарадзіўся 15 мая 1936 г. ў в. Вялікі Бор Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1943 г. разам з сям'ёю быў вывезены ў Нямеччыну, адкуль на радзіму вярнуўся ў 1945 г. У 1960 скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Працаваў карэктарам, фельетаністам у часопісе «Вожык» (1959—60), рэдактарам у аддзеле прозы часопіса «Полымя» (1960—76). У 1976—86 гг. сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. З 1986 г. загадчык рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры выдавецтва «Мастацкая літаратура», з 1993 г. галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя П. У. Броўкі.

Першае апавяданне Б. Сачанкі «Плынь» апублікавана ў 1956 г. ў часопісе «Маладосць». Першы зборнік апавяданняў — «Дарога ішла праз лес» (1960). Б. Сачанка аўтар трылогіі «Вялікі Лес», рамана «Чужое неба», аповесцяў «Дзік-бадзяга», «Мальвіна», «Апошнія і першыя», «Пакуль не развіднела», «Баравое рэха», «Варэйка золата», «Дарога ў Хатынь» і інш., а таксама зборнікаў сатыры і гумару, кніжак для дзяцей. Ён лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі 1982 г. за кнігу прозы «Ваўчыца з Чортавай Ямы», Літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі імя І. П. Мележа 1991 г. за кнігу крытыкі і публіцыстыкі «Сняцца сны аб Беларусі...».

Жыццё беларускай вёскі, маральнаэтычныя дачыненні людзей, чалавек на вайне — пераважныя тэмы ранняй творчасці Б. Сачанкі. У апавяданнях і аповесцях 1970—80-х гадоў аўтар закранае розныя аспекты побыту гараджан, выкрывае мяшчанства, прыстасавальніцтва, графаманства і інш. (аповесці «Не на той вуліцы», «Запіскі Занядбайлы», апавяданні «Іван Патапавіч Белахвосцік — кніжны Шэрлак Холмс», «Без пяці мінут прахвесар» і інш.). Тэме Чарнобыля, які чорным крылом накрыў і яго «малую радзіму» — родную вёску, прысвяціў «Запіскі аб радыяцыі», аповесці «Родны кут», «Еўка». Мінулае нашага народа раскрывае ў аповесцях «Англіцкая сталь», «Дыярыуш Мацея Белановіча», у цыкле гістарычных даследаванняў «Постаці».

У творчасці Б. Сачанкі распрацаваны самыя разнастайныя жанры, стылёвыя плыні: найшырэй, вядома, аўтарска-мастацкая (раманы, аповесці, апавяданні, навелы, абразкі-мініяцюры, гумарэскі, сатырычныя замалёўкі і г. д.), публіцыстычна-прамоўніцкая (даклады на пісьменніцкіх форумах, шматлікія інтэрв'ю), навуковая (цыкл «Постаці», кніжка «Беларуская эміграцыя», 2-е выд., 1991) і інш.

Ці не адзіным прыкладам стылізацыі пад беларускія дакументы 16 — пачатку 17 ст. ў нашай літаратуры з'яўляецца аповесць Б. Сачанкі «Дыярыуш Мацея Белановіча» (характэрна, што стылізавана ўся аповесць, а не пэўныя фрагменты, як у іншых пісьменнікаў). У творы выкарыстаны запісы з дзённікаў Б. К. Маскевіча, грамадскага дзеяча і пісьменніка-мемуарыста 17 ст. Аўтар «Дыярыуша» — праваслаўны шляхціц з Грэска, які піша свой дзённік па-беларуску з дамешкам пальшчызны. Вось як, напрыклад, апісана ў аповесці бітва за Пінск: *І тады з вокнаў касцёла па драгунах з самапалаў і гакаўніц у спіну залпам ударылі самавольнікі. Пачалася бойка. З дамоў, з-за парканаў бунтаўнікі і казакі скочылі, загарадзілі вазамі і бярвеннямі вуліцу. Адступаць атраду войта Лукаша Ельскага не было як і куды: наперадзе рака была, ззаду — самавольнікі і казакі — з шаблямі, косамі, сякерамі, цапамі, арканамі. У сечы загінуў сябра пана Лукаша Ельскага ксёндз пан Хмялеўскі, загінулі амаль усе драгуны. Тыя ж, каму ўдалося з места да брамы адступіць, там пагінулі, бо самавольнікі браму зачынілі і арканамі драгунаў з коней сцягвалі, а таксама каменні і бярвенне са стрэх, засеўшы там, на галовы кідалі... У той жа дзень войска наша, каторае ў Хомску сілай вялікай сабралася, языка мела. І язык той аповеў, што пінчукі ўмовіліся з казакамі абараняцца да апошняга; а абы казакі не адступілі з места, абяцалі ім дзесяць тысяч злотых і вернай платы кожнаму па 10 капеек, а таксама кажухі, боты і шапкі. Пачуўшы тое, пан Мірскі казаў аблажыць войску нашаму места Пінск, што і зроблена было дня дзевятага паздэрніка. Места Пінск, хоць і вялікае, але з дрэва збудована, і парканам драўляным абгароджана з усіх бакоў. А брам дзве мае — Северскую і Лешчынскую; пасярэдзіне ж — замак, таксама драўляны. Перад брамамі ў места — насыпы высокія, найменне каторым — «магілы». Як толькі згледзелі ў Пінску, што акружаем мы места, высыпалі да нас казакі і мяшчане на конях і герцы з нашымі драгунамі і гусарамі пачалі. Сілы нашы былі вялікія, і мяшчане і казакі неўзабаве назад у места схаваліся, брамы за сабою пазачыняўшы. Войт пан Лукаш Ельскі прасіў тады пана Мірскага, абы пушкары з восьмі гармат па месту Пінск стрэлілі. Калі тое зроблена было, пан войт, ён жа і палкоўнік пінскі, паслаў трубача да «магілаў». Трубач, стаўшы ля самай брамы, крычаў у трубу пасланне да самавольнікаў, а я, будучы непадалёку, запісваў слова ў слова, абы пры патрэбе панам сваім — Багуславу і Янушу Радзівілам тое ў Варшаве пераказаць...* Як бачым, аўтар вельмі добра перадае стыль і мову помнікаў 16 — пачатку 17 ст., узнаўляючы каларыт той эпохі.

Пазіцыя пісьменніка ў адносінах да мовы ўласных твораў вызначаецца стаўленнем яго да слова. «Як у аратага плуг, у жняі серп, так у пісьменніка слова,— піша Б. Сачанка.— ...У слове пластыка, у слове музыка, у слове фарбы, у слове тое, чаго нідзе і ні ў чым няма — сэнс, адухоўленасць, страснасць. І няпраўду гавораць тыя, хто спрабуе пераканаць, быццам у яго ёсць думкі, але не хапае слоў, каб іх выказаць. Думак без слоў не бывае. Куды часцей сустра-

каецца адваротнае — ёсць словы, а думак няма. Што не можа нішто, то можа слова. «Слова — палкаводзец чалавечай душы», яно вядзе людзей на бой, на смерць, яно і ратуе, супакойвае, лечыць... Жыццё пісьменніка ў словах, дакладней, у тым толькі яму аднаму ўласцівым падборы слоў, з дапамогай якіх ён размаўляе з чытачом, выяўляе і сцвярджае сябе як асобу. У штодзённай мітусні і клопаце не трэба ніколі забываць пра слова, а трэба дбаць пра яго, усяляк аберагаць, шанаваць, развіваць, каб яно служыла яшчэ лепш, як служыла бацькам, дзядам і прадзедам!» (Сачанка Б. Жывое жыццё. Мн. 1985. С. 200).

Лексіка і сінтаксіс кожнага таленавітага пісьменніка вызначаюцца спалучэннем у яго творчасці дзвюх плыняў. Аўтарскі адбор слова, пабудова сказа — гэта адначасова і працяг літаратурнай традыцыі, і яе свядомае парушэнне. Працяг — бо ёсць у мастацтве, як і ў жыцці, законы пераемнасці, нашчадкавання, настаўніцтва, увагі да мінулага і павагі да яго. І тут варта адзначыць, што Б. Сачанка абапіраўся бадай што ці не на лепшае, што было ў беларускай прозе першай паловы 20 стагоддзя,— на мастацкае слова К. Чорнага. «Кузьма Чорны — пісьменнік вельмі нацыянальны, вельмі беларускі. Усё, пачынаючы ад слова і канчаючы апісаннем карчмы ці сялянскай хаты, у яго сваё, непаўторнае, беларускае. За гэтую непаўторнасць таленту, за тое, што Кузьма Чорны вельмі ж ужо самабытны і беларускі ва ўсёй сваёй творчасці, і дарагі ён мне, за гэта я люблю яго...»

У Кузьмы Чорнага празаік вучыўся многаму — непаўторнай інтанацыі апавядальнасці, філасофічнасці думкі, канкрэтнасці слова. Адна з першых кніг прозы Б. Сачанкі мае назву «Дарога ішла праз лес», а апавяданне «Сляды» з гэтай кнігі пачынаецца так: *Чалавека нешта непакоіла. Ён то сядзеў воддаль ад дарогі, прыхінуўшыся да камля дуба, то ляжаў, падклаўшы пад галаву пацёрты рэчавы мешок, то, ўцягнуўшы ў плечы доўгую шыю, хадзіў сюд-туд па ўскрайку лесу і не-не дый паглядваў на вёску, што відна была за дробным бярэзнікам на пагорку.* А зараз — для параўнання — некалькі радкоў з «Лявона Бушмара» К. Чорнага: *Дарога ў лес ішла праз рэчку, цераз мост, з поля і паплавой... Чалавек ішоў паволі, нёс за плячыма клунак. Часам ён прыпыняўся, дзе дрэвы разыходзіліся ад дарогі і над палянкай ніжэй звісала зорнае неба. Чалавек як бы прыглядаўся ці прыслухоўваўся да чаго. Стаяў так хвіліны са тры і зноў ішоў далей...*

Пісьменнік добра ўсведамляе сваю сувязь з духоўнай, мастацкай культурай народа, якая каранямі сваімі заглыблена ў стагоддзі яго гісторыі: «...што паэзія ўплывала і ўплывае на маю творчасць — гэта факт, як уплывае на пісьменніка бадай што ўсё ім перажытае, бачанае, чутае і... чытанае. Магу сказаць, што я быў пад моцным уплывам фальклору і «Слова аб палку Ігаравым», калі пісаў «Апошнія і першыя». «Новая зямля» Я. Коласа памагла мне ў працы над «Чужым небам». У тым, што пішу я не на якой-небудзь іншай, а на роднай беларускай мове, вельмі ж удзячны паэзіі Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Я. Купалы і... тым песням, што чуў змалку ад маці» (Дзень паэзіі — 76. Мн., 1976. С. 174—175).

Але кожны новы пісьменнік дадае да лепшых нацыянальных традыцый штосьці ўласна-адметнае — у тэмах, ідэях, светапоглядзе, мастацкім бачанні жыцця, а значыць, і ў сродках, якімі яны ўвасабляюцца ў мастацкім творы. Сродкі ж гэтыя — жывое, памастакоўску індывідуальна ўзважанае і высвечанае слова. Моўны лексікон і пабудова сказа ўвогуле тыя самыя, што і ў папярэднікаў, але слоўныя фарбы — свае, новыя, непаўторныя. І ў моўным плане гэтыя фарбы ўтвараюцца ў тэксце выбарам — побач са сродкамі агульнавядомымі, пашыранымі ў маўленні ўсіх і кожнага — формы незацяганай, канструкцыі незапазычанай, слова нячутага, свежага, метафары і параўнання нязгаслых і г. д. Яркія індывідуальныя фарбы ўласцівы і моўнай палітры Б. Сачанкі. Пісьменнік шчодра, але з высокім пачуццём моўнай і мастацкай меры, насычае сваю прозу сакавітымі народнымі слоўцамі, пацвярджаючы тым самым даўняе назіранне, што шчасліва знойдзеная мастаком фарба вядзе за сабой, падштурхоўвае і паглыбляе думку. Вось нізка такіх шматфарбных, па-мастацку дарэчных у тэкстах пісьменніка лексем. Назоўнікі: *слепет* (дзікія пчолы), *пасядзельня* (пакойчык ці месца для гамонкі), *брахалайка* (тое самае), *кастамахі* (косці), *заглуш* (глуш), *сховань* (сховішча), *ціхата* (цішыня), *гусцеж* (гушчар), *нядократка* (недатыкальная дзяўчына); прыметнікі: ***калясная** дарога, **нашашэраная** поўсць, **ушушканыя** дзеці, **пагоністыя** хвоі, **галлістыя** дубы, **вартнейшыя** дзяўчаты, **бывалешныя** гады, **ненатурлівы** конь, **нездаляшчы** дзік, **адчайдушны** сум, **горныя** слёзы;* дзеясловы: *карчавець* (расці — пра грушу-дзічку), *каржакаваць* (расці — пра дубок), *разнягодзіцца, настырняцца* (ад *настырны*), *абнемагчыся* (выбіцца з сіл), *мантычыць* (марнатравіць), *рачкаваць* (сагнуўшыся працаваць на полі), *таварышкаваць* (сяброваць), *мітнуцца* (кінуцца, адскочыць), *кутаць* (рабіць пляцень), *уходаць* (упалявваць — пра дзіка), *дабавіць* (данесці), *засіліцца* (павесіцца); прыслоўі і прыслоўныя звароты: ***сігаста** праскакаў заяц; **за бесцань** збыць сена; умінаць хлеб з салам **напоўніцу; пазахлеўю** пад'ехаў; набыўся тут больш, чым трэба, **дасхочу;** плацце **шчыгульна** аблягала яе цела; завязаны **ўчубкі** белы каснічок* і г. д.

Багатая і разнастайная стылёвая сінаніміка пісьменніка. Вось, да прыкладу, дзеясловы з агульным значэннем 'ісці — пайсці': *схадзіць, папраставаць, прашлэпаць, шыбаваць, сунуцца, брысці, пратупаць, валюхацца, садзіць, джгаць, пыльнуць* і інш.

Любіць пісьменнік падвойваць словы і выразы. У яго творах сустракаем розныя канструкцыі: *Чаму, чаму яна ўцякала?; І дзе, дзе сам дзядзька?; Не дай, не дай, каб выпаў снег; І пайшло, пайшло...* Падвойваюцца дзеясловы *(**кінуць-рынуць** хату, воўк **трубіць-раве**)*, прыметнікі *(Іван быў **бесклопатна-спакойны; пакутліва-цяжкі** клубок думак; **стоптаны-ператоптаны** снег)*, але асабліва пашанцавала ў гэтых адносінах назоўнікам. Россып маляўнічых падваенняў (назоўнік з прыдаткам) сустрэне чытач на старонках многіх твораў Б. Сачанкі: *камень-дзікар, чорт-бабёр, дзяўчынка-пятнастойка, ненажэры-зладзюгманы, парсюк-асянчук, недарэка-смаркач, начмачыха, дзік-бадзяга, дуб-волат, дарога-зімняк, сасна-семянніца* і мноства іншых.

Багатыя ў прозе Б. Сачанкі прадметна-тэматычныя рады слоў. Ён дасканала ведае моўныя «адпаведнікі» бясконцых і непаўторных рэалій роднай прыроды — раслін і жывёл, рэчак і ручаін, хмар і зорак, дарог і сцежак. Акрамя *хмызняку* і *травы*, у яго творах россып канкрэтных назваў: *малачай і асака, чарот і блёкат, багун і рагаза, лаза і вербалоз, крапіва і шылёг, мучка і заечая капуста, пажарнік і лапавусік...* Чытач чуе не толькі як *птушкі пяюць*, але і як *снегіры пераклікаюцца піскнявымі галасамі*, як *падаў голас дзяркач, зацёхкаў салавей, кукарэкнуў певень; «Слава богу, жыўжыў»,— ціўкнуў верабей. «І я, і я» — нясмела адгукалася вераб'ю сытка;* як *высвіствалі дразды; барабанілі, чэкалі дзятлы; тужліва пішчалі берасцянкі...* Усе галасы, гукі, шолахі роднай прыроды дакладна і жывапісна перадаюцца трапна знойдзенымі словамі.

Ёсць у аўтара і свае ўлюбёныя словаўтваральныя мадэлі. Нельга не звярнуць увагі на вельмі дакладныя, ёмкія дзеясловы тыпу *атушыць, ачынацца, ацалець, ацямнець, аціхнуць, ачарпаць, агрызці* і пад. або на прыметнікі *глыбозны, высозны, шырачэзны, вялізазны* і пад.

Адметна беларускі, незыншамоўлены, выразны і гнуткі сінтаксіс мастацкага маўлення Б. Сачанкі: *Я не мог ні чытаць, ні пісаць, ні думаць. Ні ў чым не дабіраў смаку, ні ў чым не знаходзіў уцехі; У руку ўзяла гладышку, абвязаную чыстым ручніком,— ці не з вадой...; Добра, як будзе стаяць на пагодзе, сонца грэцьме; Яна мелася прынесці на луг полудзень;*

*Вера прыйшла ў позняе снеданне;*
*А некалі ж, да вайны, які быў лес — гаманіў з небам...*

Б. Сачанка добра адчувае і выкарыстоўвае магчымасці маўленчага рытму ў прозе. Патраенне аднародных членаў сказа (*Без ваўчанят было маркотна, мутарна, няўтульна* — «Ваўчыца з Чортавай Ямы»; *І ў вачах усё закружылася, заскакала, паплыло* — «Дзік-бадзяга»), такое звычайнае ў кожнага чуйнага да слова пісьменніка, ён даволі часта чаргуе з парнымі канструкцыямі, якія самім сваім сінтаксісам разбураюць чаканую рытмічную размеранасць, ператвараючы аднародныя члены ў стылістычную фігуру новай якасці, напрыклад: *...Ажылі, замітусіліся думкі...; ... хвастанулі, ударылі словы...; У траве сыта цвірчалі, сакаталі конікі; Харахорыўся, храбрыўся дзік; Галінкі абцягвалі, абскубвалі бухматыя вазы; І ўспомнілася, нахлынула...; Лес узімку таксама прыгожы, вабны; Мароз захапіў дубкі знянацку, зазелена* («Дзік-бадзяга») і пад.

Пісьменнік часта звяртаецца да простай мовы, да ўнутранага дыялога. Ён здольны надаць ім незвычайную псіхалагічную пераканальнасць, скарыстоўваючы для гэтага спецыяльныя сінтактыка-стылістычныя захады, напрыклад, прыём унутранага дыялога, аўтаразмовы: *Дзядзька нёс Васіля на спіне і ўвесь час маўчаў. Мусіць думаў пра нешта важнае, сваё.*

*У Васіля замярцвелі рукі, боль тузаў нагу. Але думкі былі ясныя, пэўныя. «Людзі заўсёды астаюцца людзьмі. Вось гэты зусім незнаёмы чалавек нясе мяне на сваіх плячах... А ўсюды ж вораг. Чалавек рызыкуе жыццём. Яму трэба хутчэй да сваіх дзяцей, а ён не пакідае параненага. Чалавек!.. А я?.. Што зрабіў я?.. Чаму я не пабудзіў таварышаў?.. Знайшоў лаз і нікому не сказаў...»*

*«Проста не падумаў пра гэта».*

*«Не падумаў!.. Маніш! Скажы праўду: спалохаўся, што калі ўцякаць пачнеце гуртам, то будзе вялікая мітусня. Пачуюць вартавыя... І тады... Тады і сам не ўратуешся... Баязлівец... Нягоднік... Вось хто ты!..»*

*«Але ж я... Я не ведаў, што вылезу сам. Усё здарылася так выпадкова...»*

*«Маўчы. Ніякай выпадковасці не было. Проста ты такі па сваёй натуры. Аднаасобнік! Ты не варты таго, каб цябе ратавалі. Каго пакінуў у бядзе?..»*

*«Я ж паранены...»*

*«Не апраўдвайся. Тады ты быў не паранены... Не замінай чалавеку. Хай ідзе да сваіх дзяцей»* («Сустрэча з чалавекам»).

Няўласна-простая мова часам дае пісьменніку магчымасць перадаць складаны малюнак процістаяння самых розных прыродных і грамадскіх сіл і пашырыць кантэкст да глыбокіх і актуальных сацыяльна-філасофскіх разваг і абагульненняў — пра лёс чалавека, напрыклад: *Дзік цяпер не разбіраў, кудою яму лепей ісці, амаль не шыўся ў хмыз — садзіў проста па цаліку, садзіў, куды глядзелі вочы, абы не стаяць, абы быць далей ад чалавека. Нібы адчуваў, што паляўнічы болей не прамахнецца — заб'е. За што? Толькі за тое, што ён чалавек, а не жывёліна, якою можна напхаць сабе трыбух... Паганы, ненажэрны чалавек! Ты павысякаў наўкруг сваіх селішчаў лес, павысякаў яго там, дзе ён стаяў вякамі і дзе ніколі раней не ступала твая нага. Ты забіваеш усё жывое, што водзіцца ў лесе, заб'еш і мяне. Але што ты будзеш рабіць тады, калі не будзе ні лесу, ні мяне, ні іншых такіх, як я, звяроў,— ты думаў, думаў пра гэта, чалавек? Вялікая крыўда была ў дзіка на людзей, і ён выказваў яе, як толькі мог...* («Дзік-бадзяга»).

Эканомнымі сродкамі пісьменнік дасягае індывідуалізацыі і маўлення, і характараў сваіх герояў, і іхніх слоўных партрэтаў, напрыклад: *У ботах, цёмна-сінім галіфэ, белай кашулі наросхрыст, зусім яшчэ не стары, лёгкі і рухавы,— Павел Пятровіч Абадушка, які таксама, праязджаючы міма на «газіку», не змог, каб не забегчы ў хату, нават пахваліў Івана:*

*— Малайчына! Гэта ж каб павырасталі [ваўчаняты], колькі б бяды нарабілі! Гэткая плойма! Ага, гэткая плойма!.. Пастаўлю пытанне, каб прэмію табе далі. Ага, прэмію...*

*— Што вы, Павел Пятровіч, гэта ж выпадак,— засаромеўся, зніякавеў Іван.*

*— Хай сабе і выпадак, а сямі ваўкоў няма. Гэта нешта ды значыць? Ага, значыць!..* («Ваўчыца з Чортавай Ямы»). І ўсе далейшыя яго рэплікі перасыпаны гэтымі «ага» і паўтарэннем наступных слоў.

Б. Сачанка добра ведае народную фразеалогію. І ў аўтарскім тэксце, і ў маўленні персанажаў шмат выразных устойлівых зваротаў: [*Герцэн*] *надрукаваў фельетон «Партрэт Мураўёва», у якім навечна* ***прыбіў да ганебнага слупа*** *гэтага царскага сатрапа* («Мураўёў-вешальнік»); *Была* [*Іра*] *такая ласкавая, вясёлая, заўсёды радая кожнаму яго званку, кожнай сустрэчы, нават слову. І раптам... Нібы яе падмянілі,* ***муха шалёная ўкусіла...*** («Родны кут»); *Кандрат Астапавіч Нядзелька сказаў Рыжаму — Змітру Шламаку: — Стараста ў вас нейкі...* ***Ні рыба ні мяса. Ні мычыць ні целіцца*** («Вялікі Лес»); *Жыў я тады ў студэнцкім інтэрнаце. Жыў «незаконна», ці, як казалі студэнты,* ***на птушыных правах*** («Незваротнае»); *Дзесьці на трэцім ці на чацвёртым курсе, прачытаўшы выразкі з газет, што прывёз Андрэй з чарговай практыкі, я ды іншыя таварышы, а таксама нашы выкладчыкі пераканаліся: журналіста з Андрэя не будзе.* ***Не адтуль,*** *як кажуць,* ***растуць*** *яго* ***рукі*** («Без пяці мінут прахвесар»); *Толькі і ў гэтым зрубе пажыць Піліпу не ўдалося — зноў на вясне хтосці...* ***чырвонага пеўня падпусціў*** («Вялікі Лес»); *язык праглынуць, птушынага малака не хапае, убрацца ў сілу, за сябе пастаяць, мець «валасатую» руку, паддаць страху, касіць сабакам сена, спаць у шапку* і інш.

Мову пісьменніка часта ажыўляюць вымоўныя, жывапісныя параўнанні (*п'яны, як гразь; поля таго, як добрай бабе сесці; так ціха, што, здаецца, нідзе, на ўсім белым свеце, ніхто ўжо не жыве; сядзіць... як груган; цялепаецца ўслед за мною, як хвост*), прымаўкі (*часам з вадою, часам з бядою; хоць кол на галаве чашы; кручуся, як вавёрка ў коле; ад работы свету божага не бачу; ад дабра, як кажуць, дабра не шукаюць*).

Незвычайны багаты ў тэкстах пісьменніка арсенал выкарыстаных прыказак: *Багатаму чорт дзяцей калыша, а беднаму — лыжку ліжа; Жонка не лапаць, з нагі не скінеш; Адно скача, друга плача, а трэцяе есці просіць; На гэты род не прыйшоў звод; Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам...; Чужую бяду рукамі разведу; Хто рана ўстае, таму і бог дае; Насіў воўк, панеслі і воўка* і інш.

Нярэдка аўтар і сам стварае выслоўі-афарызмы, блізкія да народных прыказак: *Жаніцьба ёсць, а разжаніцьбы няма; На тое і жыццё, каб спакою не даваць; Шчасце не любіць, каб пра яго ведалі многія; Спазнаўшы вялікае, ці здаволішся малым?*

Часам адбор прыказак нясе звязаную з іх сэнсам дадатковую зместавую нагрузку: яны раскрываюць, абмалёўваюць унутраны свет персанажа, які іх вымаўляе. Так, хабарнік і прайдзісвет Аляксандр Трыфанавіч (апавяданне «Цянёты») перасыпае свае разважанні аб жыцці такімі прыказкамі, як: *Хоць і смяюцца, што рука руку мые, аднак жа...; З усіх па нітцы, а беднаму кашуля,— засмяяўся ён неяк хітра і, як здалося мне, няшчыра...; Ды і адзін, дакладней, у адзіночку не пражывеш. Затруць, замнуць...; Каб ведаў, дзе ўпадзеш, саломку падаслаў бы...*

Вядома, што, акрамя ўласна апавядальных жанраў (раман, аповесць, апавяданне), у мастацкім маўленні існуе мноства жанраў малых, або так званых кампазіцыйна-стылістычных — апісанне, паведамленне, інфармацыя, характарыстыка, маналог і дыялог, унутранае маўленне, партрэт, пейзаж, замалёўка, разважанне, успаміны, пераказ і інш. Іх выкарыстанне (у межах, напрыклад, апавядання) пазбаўляе тэкст структурна-кампазіцыйнай аднастайнасці, манатоннасці. Гэтымі мікражанрамі па-майстэрску валодае Б. Сачанка. Вось прыклад шматфарбнай, з глыбокім падтэкстам, лаканічна зробленай замалёўкі веснавой раніцы (з аповесці «Аксана»): *Раніца выдалася ціхая, цёплая. У паветры амаль не адчувалася ні сырасці, ні золі. Не вісеў, не клубіўся нідзе,*

*нават у лагчынах, туман. Зямля дыхала вясною. І ўсюды ўжо звінелі, звінелі нябачныя ў блакіце неба маленькія, шустрыя няўтомы-жаўранкі. З-за гор паволі, як бы чагосьці баялася, асцерагалася, выкочвалася круглае, румянае сонца, і ў яго залацістых, зыркіх промнях на ўзбочыне пайз дарогу серабрыліся першыя голкі травы, што ўжо дзе-нідзе прарэзаліся, прабіліся праз густую коўдру леташняга лісця. Падзімаў ветрык — лёгкі, ласкавы; ён нёс аднекуль з гор пах смалы-жывіцы, пах лесу і хвоі. І сэрца ў мяне забілася, няйнакш, яно таксама пачула блізкую, жаданую волю...*

*«Вясна! Вось, нарэшце, яна, вясна! Тая пара, якой я так доўга, так нецярпліва чакаў!»*

Яшчэ прыклад выкарыстання мікражанру ў вялікім тэксце — маналог-плач, перададзены эмацыянальна, з узнёсла-жалобнымі фальклорнымі інтанацыямі: *О мама, мама! Ты мяне так любіла!.. Скажы мне, мама, як мне цяпер жыць, што рабіць?.. Куды пайсці, дзе прытуліць сірочую галаву сваю? Хто пасцеле пасцель мне, хто есці наварыць, хто кашульку мне памые і палатае, калі яна падзярэцца? Нічога ж, нікога ж нідзе няма — усё, усіх спаліла вайна, спапялілі немцы... За што?* («Апошнія і першыя»). Тут трэба падкрэсліць велізарную ролю фальклору ў стварэнні гэтага празаічнага палатна, што чытаецца-слухаецца як музычны харал, рэквіем-галашэнне па забітых, спаленых, закатаваных, прапаўшых на гэтай праклятай, праклятай, праклятай вайне. Аповесць-рэквіем «Апошнія і першыя» — твор трагічна-балючы. У ім пякучы боль успамінаў пра чорныя дні ваеннага ліхалецця, калі разам з аднавяскоўцамі ў роднай школе была спалена і мама Ясіка, таго, чыё сэрца і пасля вайны плача няўцешна, чый розум не можа змірыцца, што так недарэчна вайна забрала ў яго ні ў чым не вінаватых родных, блізкіх. Гэты боль пранізвае твор ад пачатку і да апошняга сказа, апошняга слова. І яшчэ аповесць напружана-трывожная. Аўтар хвалюецца-трывожыцца за тое, каб падобнае, праз якое давялося прайсці яму і яго герою, не спаткала больш нікога ў жыцці — ні яго самога, ні яго сына, ні яго аднавяскоўцаў, якія ацалелі, асталіся жыць, нікога-нікога з людзей на зямлі. Гэты трагізм, гэты шчымлівы боль, ад якога ў чытача ўвесь час стаіць горкі камяк у горле, мастаку памагае перадаць народнае слова, народная мудрасць, фальклорная паэтыка, адвечна-традыцыйная вобразнасць плачаў-галашэнняў, прытчаў, легенд, былічак, паданняў, праклёнаў, звароты, як у «Слове пра паход Ігаравы», да светлых і цёмных сілаў, да Зямлі і Неба, Ветру і Сонца, Месяца і Хмараў, Бога і Д'ябла, нават Смерці, звароты героя да сваіх вачэй, ног, сэрца, каб не дапусцілі бачыць, чуць, зведаць тое, што давялося, гэта эмацыянальна-напятае, здаецца сэрца разарвецца, пракляцце вайне. І ўсё гэта перадаецца словам, словам прачулым, словам дакладным, словам родным, беларускім.

Літаратурна-мастацкая і публіцыстычная творчасць Барыса Сачанкі — найяскравейшы прыклад вялікіх магчымасцей беларускага слова, калі ім карыстаецца адданы радзіме і мастацтву чалавек. Адна з найбольш блізкіх яму публіцыстычных тэм — лёс роднай мовы. У пісьменніка шмат выказванняў пра яе — гэта артыкулы, адказы на пытанні, нататкі, «думкі ўроссып» і інш. Яшчэ на пачатку творчай дзейнасці, будучы студэнтам-трэцякурснікам Б. Сачанка выступіў у газеце «Літаратура і мастацтва» (1957, 14 снежня) з артыкулам «Шанаваць родную мову», які тады, у гады вынішчэння ў рэспубліцы ўсяго беларускага, у тым ліку і роднай мовы, прагучаў як выбух, быў заўважаны і адпаведна пракаменціраваны і за мяжою, што, натуральна, прынесла маладому літаратару шмат непрыемнасцей і перажыванняў. Ужо ў гэтым выступленні пісьменніка-пачаткоўца выразна была акрэслена яго грамадзянская пазіцыя, яго патрыятычныя адносіны да роднага слова як найвышэйшага народнага скарбу. «Калі не надаецца сур'ёзная ўвага вывучэнню беларускай мовы на аддзяленні журналістыкі [БДУ], дык, можа, гэта робіцца хоць на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры, якое рыхтуе выкладчыкаў для сярэдніх школ? — усхвалявана пытаўся аўтар і абурана адказваў: Не. Там таксама выкладанне на роднай мове не вядзецца (выключэнне — беларуская мова і літаратура)...» «Каб наша беларуская мова ўвайшла ў паўсядзённы быт усіх слаёў насельніцтва,— рэзюмаваў Б. Сачанка,— думаецца, што першым практычным крокам да гэтага павінна быць увядзенне выкладання ва ўсіх навучальных установах рэспублікі на беларускай мове...».

Турботны роздум аб цяжкіх шляхах жывога слова беларусаў ніколі не пакідае Б. Сачанку: «Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маей! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове...» Які ўжо раз перачытваю словы — не словы нават, а запісаны ў словах крык душы і болю, заклік і запавет Мацея Бурачка. І думаю — адкуль у яго такая перакананасць, хто дапамог яму так ясна, па-інтэрнацыяналісцку ўсвядоміць сваю нацыянальную годнасць, годнасць мовы нашай, яе значэнне для далейшага развіцця Беларусі? Ці пачулі яго, зразумелі «братцы мілыя»? Мусіць жа, бо ў нялёгкім змаганні заваявалі права «людзьмі звацца» — стварылі не толькі сваю дзяржаву, але і цэлую вялікую літаратуру. Літаратура гэтая сёння — наша слава і гонар. Калі раней, да Мацея Бурачка, на «мужыцкай» мове пісалі толькі лічаныя асобы, дык цяпер на ёй пішуць усе самыя таленавітыя, лепшыя сыны і дочкі Беларусі. Мова наша сапраўды такая ж «людская», «як французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая...». І гэта ведаем цяпер не толькі мы, беларусы, але і тыя ж французы, немцы, усе суседзі нашы і не суседзі. І дапамог гэта ўсвядоміць не толькі суседзям нашым і не суседзям але і самім нам Мацей Бурачок — выдатны грамадзянін і паэт, адвакат мовы нашай і народу Францішак Багушэвіч. Дык давайце ж, «братцы мілыя», не забываць яго слоў — заклiку і запавету, помніць іх, а заадно і яго самога, усіх тых, хто першы пракрычаў на ўвесь свет — ёсць такая «зямліца — Б е л а р у с ь», ёсць такі народ — б е л а р у с к і, ёсць такая мова — б е л а р у с к а я» (Маладосць. 1983. № 6. С. 153—154). Ва ўспамінах пра руплівца і нястомнага працаўніка на ніве роднай мовы Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага Б. Сачанка піша: «Беларускаму слову, як вядома, ніколі не жылося лёгка. З яго кпілі, смяяліся, яго выжывалі, знішчалі, дзе толькі можна было. Заадно даставалася і тым, хто за яго заступаўся, хто яго любіў, хто рабіў усё дзеля таго, каб яно не загінула, жыло. А паколькі і Фёдар Міхайлавіч прысвяціў сваё жыццё гэтаму слову, ды і я, то пры сустрэчах нам заўсёды было пра што пагаварыць... Пра што? Ды ўсё пра яе ж, гаротніцу, пакутніцу, мову нашу. Мяняліся ж быццам да лепшага часы, але не мяняліся адносіны да беларускага слова. Усё адно як праклялі яго. Хто б не прыходзіў да ўлады, нават думкі не ўзнікалі, каб хоць нешта тут паправіць. Адмяняліся самыя розныя пастановы, аб'яўлялася «памылкамі», «недаглядамі», «парушэннямі» што заўгодна, толькі з беларускай мовай нібыта было ўсё ў парадку, нічога ані не трэба папраўляць, хоць менавіта якраз тут наламана дроў як нідзе. Быў бы хлеб, была б каўбаса — а з мовай і той, якая ёсць, пражывём — вось абывацельскае мярыла, якое калі не на словах, дык у думках многіх кіраўнікоў.

І Фёдар Міхайлавіч перажываў.

— Няўжо я так і памру, нічога лепшага не ўбачу,— казаў ён.— Нарадзіўся — душылі нашу мову, жыў — душылі яе, і вось паміраць сабраўся — усё душаць. Але ж яна жывучая,— усміхаўся ён.— Колькіх сваіх душыцеляў перажыла! Быццам на злосць ім усім!..» (Полымя. 1993. № 1. С. 188—189).

Б. Сачанка прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі і стварэнні Таварыства беларускай мовы, уваходзіў і ўваходзіць у склад яго рэспубліканскага кіраўніцтва. Ён адзін з аўтараў праектаў Закона аб мовах і Дзяржаўнай

праграмы па яго ажыццяўленні.

Шырокі грамадскі рэзананс выклікала і палеміка на старонках «Народнай газеты» (чэрвень — ліпень 1991 г.) між Б. Сачанкам — тады сакратаром Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы і пракурорам Беларускай ССР Г. С. Тарнаўскім, які, незадаволены прыняццем Вярхоўным Саветам рэспублікі Закона аб мовах, у адным са сваіх выступленняў на Пленуме ЦК КПБ спрабаваў рэвізаваць яго, заклікаў камуністаў «дать отпор» «радетелям белорусской культуры», аб'явіць вайну тым, хто абараняў родную мову, не даваў яе ганьбіць. «Пракуратура БССР, якая павінна сачыць за выкананнем гэтага, як і ўсіх іншых законаў, ды і сама іх выконваць, занята тым, каб прывесці «Закон аб мовах у Беларускай ССР» у адпаведнасць з саюзным, гэта значыць, ліквідаваць некаторыя вельмі важныя яго палажэнні»,— гаварыў пісьменнік у інтэрв'ю «Вярнуць народу яго душу і памяць» (Народная газета. 1991. 11 чэрвеня). Палеміка закончылася вялікім артыкулам Б. Сачанкі «Дзяржаўная мова — чужаніца ў дзяржаўных вуснах?» (Народная газета. 1991. 30 ліпеня), у якім аўтар на багатым фактычным матэрыяле паказаў, не толькі ў якім бядотным становішчы апынулася за гады савецкай улады беларуская мова, але і як, якімі метадамі вялося з ёю змаганне з боку ўрадаўцаў і тых, хто не ведаў і не хацеў вывучаць. Прыводзіліся і яскравыя прыклады таго, што рабіла Пракуратура БССР, каб не дапусціць прыняцця Закона аб мовах у Вярхоўным Савеце рэспублікі ў тым выглядзе, у якім ён і быў прыняты.

Асаблівы клопат пісьменніка — культура слова, культура мовы і маўлення. І тут трэба спецыяльна зазначыць, што ў вырашэнні і агульных, і прыватных пытанняў Б. Сачанка абапіраецца на добры філалагічны грунт. Ён любіць і ў этымалагічны слоўнік зазірнуць, і прыслухацца да думкі замежнага класіка, і абаперціся на традыцыі і досвед пісьменнікаў-славян, і скарыстаць моўны набытак «народнай граматыкі». Вось некалькі яскравых пацвярджэнняў гэтага — думкі самога пісьменніка з яго кніжкі «Жывое жыццё»: «Галоўны творца і заканадаўца мовы — народ. У гэтым я пераконваўся неаднойчы. Іду зусім нядаўна па пероне вакзала, а мяне спыняе бабулька з вялізным клункам за плячыма, пытае:

— Сыночак, дзе тут б а г а ж н я?

Га! Колькі разоў спрабаваў я перакласці гэтую самую «Камеру хранения багажа», каб гучала яна і па-людску і па-беларуску! І на табе, вясковая бабулька, выяўляецца, гэта ведае і мне, пісьменніку, падказала...» (с. 182); «Мясцовыя рысы, дыялекты, каларыт і г. д. ніколі не абяднялі, а толькі ўзбагачалі літаратуру. Успомніце Гогаля, Някрасава, Горкага, Шолахава, Ясеніна, Твардоўскага, Шукшына... Ды і амаль усіх іншых лепшых беларускіх пісьменнікаў... Вядома, у захапленні «мясцовым» таксама ёсць мера. «Лішняга і свіння не есць» (с. 190); «Ачышчэнне і разам з тым узбагачэнне роднай мовы — справа лепшых розумаў» (Гётэ). А не ўсіх, хто бярэцца за пяро, што назіраецца ў апошні час у нас...» (с. 143).

Сэрца і розум пісьменніка працуюць словам, змагаюцца словам, жывяцца і ратуюцца словам, бо нябёсамі дадзена таленту глыбей за іншых зразумець і адчуць, што мова і народ, народ і ягоная мова — непарушнае, непадзельнае, непарыўнае Адзінства: «Іншы раз з жахам уяўляю, што было б з табою,— о, Радзіма мая, Беларусь! — каб не мова наша! Колькі ворагаў паланілі цябе, знішчалі, палілі вёскі і гарады, таптал палі, высякалі лясы, забівалі, выганялі за свет людзей... Апалячвалі, анямечвалі, русіфікавалі... А ты жывеш! І веру — жыць будзеш! Будзеш жыць, пакуль жыве слова наша, песня наша, мова наша!» (ЛіМ, 1984, 6 крас.).

*Літ.*: С а в і к Л. С. Пад мірным небам бацькаўшчыны: Нарыс творчасці Б. Сачанкі. Мн., 1986.

*А. Я. Міхневіч, І. У. Саламевіч.*

## СЕМАНТЫКА

Слова «семантыка» паходзіць ад грэч. sēmantikós які абазначае. Першае яго значэнне ў мовазнаўстве — змест моўных адзінак: марфем, слоў, словазлучэнняў, сказаў, тэкстаў. Змест адзінак мовы — гэта тая частка іх сэнсу ў маўленні, для разумення якой дастаткова ведаць саму мову без звароту да інфармацыі пра аўтара, яго намеры, сітуацыю размовы, законы мыслення, гісторыю, культуру, навуковыя веды чалавецтва і г. д. Адрозненне паміж зместам і сэнсам няцяжка заўважыць, калі, напрыклад, параўнаць такія сказы: *Прыйшла восень, і лісце з бярозы апала.— З надыходам восені бяроза скінула сваё зялёнае ўбранне.— Восень сарвала апошні лісток з бярозы.* Сэнс трох сказаў аднолькавы, зместам жа яны дастаткова выразна адрозніваюцца. Хто ведае змест моўных адзінак, або, іншымі словамі, валодае мовай, той умее перадаваць пэўны сэнс рознымі моўнымі сродкамі, калі гаворыць сам; без цяжкасці, калі слухае, знаходзіць агульны сэнс у вельмі адрозных па фармальна-зместавай структуры выказваннях; пры пэўных умовах можа ўбачыць розны сэнс у знешне аднолькавых пабудовах — сінтаксічных амонімах. Хто валодае здольнасцю растлумачваць сэнс сказанага або пачутага шляхам «унутрымоўнага перакладу», лёгка адрознівае асэнсаваныя і бяссэнсавыя выказванні, правільна і няправільна пабудаваныя сказы. Задача семантыкі як навукі (а гэта другое значэнне слова «семантыка») заключаецца ў тым, каб апісаць зместавую сістэму мовы, тыпы адзінак, што нясуць моўны змест, заканамернасці перадачы сэнсу пры дапамозе і на падставе зместавых адзінак.

Семантыка асобнай мовы — адна з яе адносна самастойных, не жорстка арганізаваных (у параўнанні, напрыклад, з падсістэмай фаналагічнай) падсістэм. Цэнтральная зона гэтай падсістэмы — семантыка слова, якую вывучае семасіялогія (гл. **Семасіялогія**). Слова ў мове існуе як узаемасувязь трох элементаў: класа прадметаў (у шырокім сэнсе слова), што адлюстроўваецца ў свядомасці і мове (пазамоўны план — дэнатат, або рэферэнт); паняцця або ўяўлення аб гэтым класе прадметаў (моўны план зместу — сігніфікат, азначаемае); паслядоўнасці гукаў або літар (моўны план выражэння — азначальнае, фізічны знак). Узаемасувязь трох названых элементаў атрымала ў мовазнаўстве назву «семантычны трохвугольнік». Апошнім часам паняцце «семантычнага трохвугольніка» перанесена і на вытлумачэнне семантычнай будовы сінтаксічных адзінак. Сказ, як лічаць, таксама мае дэнатат — пазамоўную сітуацыю, сігніфікат — адпаведнік суджэнню пра сітуацыю і пэўную знакавую форму, знешнюю гукавую або графічную (у пісьмовым маўленні) арганізацыю. Адна з галоўных задач лінгвістычнага аналізу канкрэтнай мовы — вызначыць класы фігур — адзінак, якія самі па сабе не маюць значэння (фанемы), і класы знакаў, значымых адзінак (сказ, слова, корань, афікс і г. д.). Мэта ж семантычнага аналізу — устанавіць тыпы моўных значэнняў, адзінкі семантыкі, іх сістэмныя сувязі, структурныя суадносіны і функцыі ў фарміраванні зместу і сэнсу выказвання.

Мінімальнай адзінкай зместавага плана мовы лічыцца с е м а (ад грэч. sēma знак), адлюстраванне ў свядомасці і мове асобных бакоў, уласцівасцей, кампанентаў рэальных з'яў і прадметаў. Так, словы *брат* і *сястра* адрозніваюцца толькі семай «пол мужчынскі // жаночы», *бацька* і *сын* — семай «пакаленне папярэдняе // наступнае», *ножык* і *сцізорык* — семай «складны» (*сцізорык* — гэта *складны ножык*). А вось словы *сасняк, бор* і словазлучэнне *сасновы лес* не маюць семнага адрознення, яны семантычна тоесныя, толькі сема «сасновы» па-рознаму перададзена моўнымі сродкамі: у спалучэнні *сасновы лес* яна перадаецца відавочна— асобным словам *сасновы*. У слове *сасняк* яна выступае у згорнутай

форме, а ў слове *бор* — у скрытай. Семантычны ж кампанент «лес» паўтараецца ва ўсіх трох выпадках. Такі кампанент атрымаў назву інтэгральнай семантычнай прыкметы, а семы, якімі адрозніваецца змест слоў і словазлучэнняў (як намінатыўных адзінак),— дыферэнцыяльных семантычных прыкмет. Падобны падыход да вывучэння семантыкі моўных адзінак мае назву кампанентнага аналізу.

Сема з'яўляецца кампанентам не слова непасрэдна, а яго лексіка-семантычнага варыянта — с е м е м ы, адзінкі больш высокага ўзроўню, чым сема. Напрыклад, у слове *вада* заключаецца некалькі семем: *вада*[1] складаецца з сем «вадкасць», «празрыстасць», «бясколернасць», «натуральнасць», «рака — мора», «піць» і інш., *а вада*[3] (паводле «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы») — з сем «беззмястоўнасць», «шматслоўе», «выступленне» і г. д.

Устойлівая сукупнасць семем, вядомая большасці носьбітаў мовы, утварае л е к с е м у — лексічнае значэнне слова (словазлучэння). Так, «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» вылучае чатыры семемы ў лексеме *брат*, пяць — у лексеме ***вада*** і г. д. Якраз у дакладным вызначэнні колькасці ўстойлівых семем у асобных лексемах (іншымі словамі, колькасці слоўнікавых значэнняў асобнага слова) і заключаецца задача лексікографа і лексіколага — спецыялістаў у галіне семантыкі слова. Задача не простая, бо ў працэсе ўжывання слова можа набыць самыя розныя пераносныя значэнні, якія не ўваходзяць у сучасную семантычную сістэму мовы, але заканамерна ўзнікаюць у маўленні як вынік пераразмеркавання і спалучальнасці семаў пэўнай мовы.

Сема, семема і лексема — адзінкі семантычнай сістэмы мовы. Акрамя іх, семантыка як навука карыстаецца тэрмінам «значэнне». Значэнні бываюць розных тыпаў. У межах семемы можна вылучыць рэчыўнае значэнне і значэнне граматычнае. У марфалогіі слова яны найчасцей суадносяцца з паняццямі кораня і афіксаў. Граматычныя значэнні ў сваю чаргу падзяляюцца на катэгарыяльныя і рэляцыйныя. Катэгарыяльныя падводзяць рэчыўнае значэнне пад найбольш агульныя катэгорыі — імя, дзеянне, прыкмета, род, адушаўлёнасць, абстрактнасць, актыўнасць, суб'ектнасць і падобныя; рэляцыйныя абслугоўваюць спалучэнне слоў у сказе і словазлучэнні (як сінтаксічнай адзінцы) — склон, лік (для прыметнікавых слоў) і г. д.

Кожны сказ знешне, у плане выражэння — гэта паслядоўнасць слоў-лексем. Унутрана ж, у плане зместу ён з'яўляецца паслядоўнасцю семем, аб'яднаных у сэнсавы ланцужок счапленнем рэчыўных, катэгарыяльных і рэляцыйных значэнняў — сем розных тыпаў. Калі заканамернасці счапленcaptured ня сем парушаюцца, атрымліваецца сказ або пазбаўлены рэальнага зместу, але граматычна правільны *(Драўляны валун ляціць у вадзе)*, або нармальны па сэнсе, але граматычна няправільны *(Іржавую цвік хутка тырчала па сцяне)*.

Адзінкі моўнай семантыкі (семы, семемы, лексемы, а таксама значэнні розных тыпаў) існуюць у выглядзе груповак, якія падзяляюцца на парадыгматычныя і сінтагматычныя. Парадыгматычныя групоўкі семантычных адзінак існуюць у сістэме мовы. Яны выяўляюцца ў тыпах адносін, якія атрымалі назву сінаніміі (гл. **Сінанімія**), гіпаніміі, антаніміі (гл. **Антанімія**), аманіміі (гл. **Аманімія**) і пад. Найбольш тыповай для мовы семантычнай групоўкай служыць л е к с і к а-с е м а н т ы ч н а е п о л е, якое стала аб'ектам вывучэння спецыяльнай тэорыі семантычных палёў. Першы тып лексіка-семантычнага поля — гэта групоўкі слоў, утвораныя на падставе іх прадметна-дэнататыўнай блізкасці, напрыклад тэрміны роднасці і сваяцкасці, лексіка колераабазначэнняў, тэрміналогіі вузкіх галін ведаў або сфер вытворчасці і падобныя. Другі тып — групоўкі, што ўзнікаюць як вынік паняційна-сігніфікатыўнай блізкасці лексем са значэннем пачуццяў, мадальнасці, адцягненасці (напрыклад, тэрміны філасофіі) і г. д. Сінтагматычныя групоўкі выяўляюцца ў маўленчай дзейнасці носьбіта мовы, у функцыяніраванні моўнай сістэмы. На падставе вывучэння сінтактыкі мовы, даследавання спалучальнасці слоў устанаўліваюцца іх дыстрыбуцыйныя характарыстыкі. Тоеснасць дыстрыбуцыйна-спалучальнасных характарыстык зноў аб'ядноўвае словы ў парадыгматычныя класы. Але такія класы адрозніваюцца ад парадыгматычных лексіка-семантычных палёў тым, што яны выводзяцца з сінтаксічных структур. Такая шматпланавая класіфікацыя лексікі — таксама адна з задач семантыкі.

Семантычныя даследаванні на Беларусі бяруць свой пачатак з тых часоў, калі ўзнікла патрэба тлумачыць змест слова і складаць слоўнікі. Але ў сучасным разуменні семантыкі такія даследаванні асабліва інтэнсіўна вядуцца на Беларусі з пачатку 1960-х гадоў (працы В. У. Мартынава, З. Н. Левіта, А. Я. Супруна, У. В. Макарава, Б. А. Плотнікава, В. П. Краснея, Ф. М. Янкоўскага, А. Я. Баханькова, Г. У. Арашонкавай, В. К. Шчэрбіна і інш.).

*Літ.:* М і х н е в і ч А. Я. Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы. Мн., 1976; П л о т н и к о в Б. А. Основы семасиологии. Мн., 1984; К р а с н е й В. П. Грані слова. Мн., 1986.

*А. Я. Міхневіч.*

## СЕМАНТЫКА-СІНТАКСІЧНАЯ НЕПАДЗЕЛЬНАСЦЬ

Словы, як вядома, падзяляюцца на семантычна самастойныя (аўтасемантычныя) і несамастойныя, службовыя (сінсемантычныя). Службовыя словы ў сказе не ўтвараюць членаў сказа. Адны з іх, напрыклад злучнікі, наогул не ўваходзяць у склад якога-небудзь члена сказа: *Сосны* ***сочаць і струменяць*** *густы, духмяны пах смалы* (Я. Колас). Другія, напрыклад прыназоўнікі, як бы зліваюцца з аўтасемантычным словам, утвараючы цэласную сінтаксічную адзінку — член сказа: ***Над зямлёю*** *дробна прамянілася сонца* (І. Чыгрынаў). Для лексікалогіі *сасна, сачыць, зямля* і *над* перш за ўсё — асобныя словы. Для сінтаксісу толькі тры першыя словы самастойныя, два апошнія — несамастойныя, службовыя. Гэта ведае кожны, хто вывучаў школьную граматыку.

Але калі зірнуць на гэту з'яву больш уважліва, то трэба змяніць такія прамалінейныя ацэнкі. Для навукова-тэарэтычнага сінтаксісу самастойнасць і службовасць не абсалютныя якасці канкрэтных слоў, а пэўныя семантыка-сінтаксічныя «каардынаты», у межах якіх многія аўтасемантычныя словы могуць набываць якасць службовасці і наадварот.

Самы просты выпадак будовы сказа ў беларускай мове той, калі ў ім столькі членаў сказа, колькі самастойных слоў: *Унізе спакойна плёскаліся шэрыя хвалі Нёмана* (А. Стаховіч). Але так бывае далёка не заўсёды. Калі ў сінтаксічную канструкцыю ўключаецца аўтасемантычнае з пункту гледжання лексікалогіі слова, але службовае з пазіцый сінтаксічнай семантыкі, то колькасць членаў сказа будзе меншая за колькасць слоў. Так узнікае з'ява семантыка-сінтаксічнай непадзельнасці словазлучэння або, адпаведна, члена сказа, а часам і прэдыкатыўнага ядра сказа. Прычыны, паводле якіх семантычна самастойнае слова набывае якасць службовасці, ляжаць у характары сінтаксічнай канструкцыі, у яе семантыка-сінтаксічных асаблівасцях. Тэрмін «семантыка-сінтаксічны» і паказвае на тое, што агульныя падставы непадзельнасці семантычныя, а сфера яе выяўлення сінтаксічная. Так, у сінтаксічнай канструкцыі *Сын* ***даў бацьку абяцанне*** чатыры словы, але тры члены сказа (параўнайце: *Сын абяцаў бацьку*), а ў пабудаванай з тых самых слоў канструкцыі *Абяцанне, дадзенае сынам бацьку* — чатыры словы і столькі ж будзе членаў сказа, калі гэту канструкцыю ўключыць у адпаведнае выказванне.

Семантыка-сінтаксічную непадзельнасць сінтаксічных канструкцый трэба

адрозніваць як ад непадзельных у сказе аналітычных форм слова (*чытаў бы, буду рабіць, пабеглі былі* і нават такіх, як *ля берага, перад хатай* і г. д.), так і ад сінтаксічнай непадзельнасці фразеалагізмаў, калі яны выконваюць ролю асобнага члена сказа (*даць дыхту, напасці на след, кату́ па пяту* і падобныя).

Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні могуць утвараць любы член сказа: дзейнік — ***Шмат сялян*** *прыходзіла да настаўніка параіцца;* выказнік — *Штурман* ***падаў каманду*** *лётчыку, і самалёт пайшоў уніз* (М. Лынькоў); дапаўненне — *Ён узяў з сабою* ***сумку кніг;*** азначэнне — *Сцяпан Птах — мужчына* ***вышэй сярэдняга росту****, шыракаплечы, рабы, з чорнымі пукатымі вачыма — па натуры чалавек неблагі* (І. Навуменка); акалічнасць — *Стары засмяяўся* ***ціхім смехам***.

З'ява семантыка-сінтаксічнай непадзельнасці дазваляе вылучыць сярод тыпаў сказа так званыя сказы «пераходныя» паміж двух- і аднасастаўнымі. У «пераходных» сказах фармальна-граматычная двухсастаўнасць уступае ў супярэчнасць з сэнсавай аднасастаўнасцю прэдыкатыўнага ядра. Да падобных сказаў можна аднесці сказы, у якіх дзейнік выражаецца займеннікамі *ты, яно,* што страцілі сваё прамое значэнне (*Самалёт узлятае, і* ***ты бачыш****, як меншаюць людзі, дамы, дрэвы. Так* ***яно*** *ў нас і* ***вялося*** *з даўніх часоў*), а таксама сказы, у якіх прэдыкатыўнае ядро выражаецца словамі *справа, размова, гутарка* і дзеясловам *ісці* ў трэцяй асобе (***Справы ідуць*** *у іх няблага;* ***Размова ішла*** *пра новую школу*). Пераходнымі можна лічыць і сказы, дзе аддзеяслоўнае слова-дзейнік спалучаецца з дзеясловам *ісці:* ***Ідзе будаўніцтва*** *новага клуба;* ***Ідзе падрыхтоўка*** *тэксту закона.* Тут «расшчапленне» дзеяслова (*будаваць, падрыхтоўваць*) на фармальны дзейнік і выказнік нагадвае «расшчапленне» дзеяслова на «несапраўдныя» дзейнік і дапаўненне, «несапраўдныя» таму, што яны не ўтвараюць самастойных членаў сказа, параўнайце: *агітаваць → весці агітацыю → ідзе (вядзецца) агітацыя.*

Вывучэнне з'явы семантыка-сінтаксічнай непадзельнасці словазлучэнняў, сказаў і іх членаў дазваляе глыбей зазірнуць у механізм узаемадзеяння семантыкі і сінтаксісу мовы — двух найгалоўнейшых яе сістэмных кампанентаў.

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. М., 1986; Міхневіч А. Я. Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы. Мн., 1976.

*А. Я. Міхневіч.*

## СЕМАСІЯЛОГІЯ

Семасіялогія (ад грэч. sēmasía значэнне, сэнс + ... логія) — раздзел мовазнаўства, які вывучае змест або значэнне моўных адзінак (фанем, марфем, слоў, сказаў, тэксту); сінонім — семантыка. Шматгранная катэгорыя значэння мае некалькі аспектаў: прадметны (з боку адносін да адлюстраванай рэчы), паняційны (з боку адносін да ўяўлення пра рэч), унутрымоўны (з боку сувязей аднаго значэння з іншымі).

У залежнасці ад моўнай адзінкі ў семасіялогіі вылучаюць фанетычнае, марфалагічнае, лексічнае, сінтаксічнае, фразеалагічнае і іншыя значэнні. Акрамя таго, моўныя адзінкі слова і сказ маюць значэнне (як абстрактную семантычную з'яву мовы) і сэнс (як канкрэтную з'яву маўлення). Сэнс — толькі адзін з варыянтаў значэння, які рэалізуецца ў кожным асобным выпадку. Напрыклад, значэнне слова *зямля* можа мець розны сэнс — 'планета': *Месяц знаходзіцца паміж Сонцам і Зямлёй;* 'суша': *Нарэшце мы ўбачылі з борта цеплахода зямлю;* 'верхні слой глебы': *араць зямлю;* 'пыл ці гразь': *абтрэсці зямлю з вопраткі*; 'нацыянальнае багацце': *Зямля — сялянам, фабрыкі і заводы — рабочым* і інш. У тлумачальных слоўніках прыводзяцца значэнні слоў, а безліч сэнсаў апошніх з'яўляецца звычайна здабыткам тэксту.

Семантычныя функцыі і значэнні розных моўных адзінак неаднародныя. Фанема выконвае сэнсаадрознівальную функцыю, з дапамогай якой мы адрозніваем значэнні розных слоў. У марфемы на першым плане рэчыўнае значэнне, у суфікса — дэрыватыўнае (дапаўняльнае да рэчыўнага), у канчатка — адноснае (для спалучэння слоў у сказе), у слова — намінатыўнае (для абазначэння прадметаў, з'яў навакольнага свету), у сказа — камунікатыўнае, у фразеалагізма — экспрэсіўнае. У слове як галоўнай намінатыўнай адзінцы мовы вылучаюць прамое і пераноснае значэнні. Прамое: *сонца* 'нябеснае свяціла', пераноснае — 'чалавек' (*Пушкін — сонца рускай паэзіі, а Купала — беларускай*).

Прадметаў, з'яў і іх прыкмет незлічоная колькасць, а слоў у мове, асабліва асобнага чалавека,— абмежаваная, таму ў мове развіваецца шматзначнасць слова, ці полісемія (гл. **Полісемія**). Полісемію адрозніваюць ад аманіміі (гл. **Аманімія**). У семасіялогіі полісемія і аманімія разглядаюцца часам у межах адной семантычнай з'явы — неадназначнасці. Полісемія цалкам можа служыць прыкладам разгортвання зместу моўнай адзінкі ўшырыню. Пры даследаванні глыбіні зместу моўнай адзінкі, напрыклад слова, узнікае паняцце ўнутранай формы (матываванай прыкметы, якая кладзецца ў аснову намінацыі прадмета словам): назва птушкі *снягір* матывавана прыкметай *снег*, як і назва зімовага месяца *снежань*; назва музычнага інструмента *бубен* матывавана гукаперайманнем і г. д.

Змест мовы пастаянна знаходзіцца ў руху, у зменах, гнутка і пластычна адлюстроўвае навакольную рэчаіснасць. Пры станаўленні семасіялогіі як навукі менавіта семантычныя змены былі ў цэнтры ўвагі даследчыкаў.

Да разнастайных відаў семантычных змен адносяцца метафара (перанос значэння па падабенстве), метанімія (перанос значэння па сумежнасці), гіпербала (перабольшванне), літота (змяншэнне), сінекдаха (перанос значэння часткі на цэлае). Змест моўных адзінак мяняецца з цягам часу: напрыклад, ранейшае *дзядзька* 'брат бацькі ці маці' зараз мае яшчэ і значэнне 'дарослы мужчына'. Дадатковыя сэнс слова (ці выразу) і семантычныя ці стылістычныя адценні, якія накладваюцца на асноўнае значэнне, называюцца канатацыяй ці канататыўнай семантыкай моўных адзінак.

Увесь змест мовы і яе адзінак арганізуецца ў кампактную і дынамічную сістэму з дапамогай разнастайных семантычных сувязей. Марфемы спалучаюцца адна з адной у слове, словы — у сказе. Дзякуючы блізкаму семантычнаму падабенству словы ствараюць розныя сінанімічныя рады і блокі: *невялікі — маленькі — дробны — мізэрны — мініяцюрны.* Пры адносінах да агульнай тэмы словы аб'ядноўваюцца ў семантычныя палі (назвы адзення, жывёл, ежы, транспартных сродкаў, мэблі), пры проціпастаўленні слоў па прыкмеце — у антанімічныя пары (*гарачы — халодны, прадаць — купіць, святло — цемра*). Падобныя групоўкі слоў адлюстроўваюцца ў адпаведных ідэаграфічных, сінанімічных, антанімічных і іншых слоўніках.

*Літ.:* Звегинцев В. А. Семасиология. М., 1957; Клименко А. П. Вопросы психолингвистического изучения семантики. Мн., 1970; Плотников Б. А. Основы семасиологии. Мн., 1984.

*Б. А. Плотнікаў.*

## СЕМІЁТЫКА

Семіётыка (грэч. sēmeiōtikē ад sēméion знак, адзнака), семіялогія — навука пра знакі і знакавыя сістэмы, іх агульныя ўласцівасці, асаблівасці будовы, заканамернасці ўжывання, функцыяніравання і развіцця, пра знакавыя ўласцівасці мовы, мастацтва, літаратуры і іншыя. Пад знакам разумеюцца матэрыяльная (звычайна рукатворная) рэч, з'ява, дзеянне, якія выкарыстоўваюцца замест іншай рэчы, з'явы, дзеяння. Адрозніваюць моўныя і нямоўныя знакі.

Нямоўныя знакі падзяляюцца на знакі-копіі, знакі-прыкметы, знакі-сімвалы.

У знаках-копіях захоўваецца знешняе падабенства з прадметам. Яны

ў сваю чаргу падзяляюцца на натуральныя (сляды пальцаў, ног) і штучныя (малюнкі, піктаграмы).

Паміж знакамі-прыкметамі, ці сімптомамі, і адпаведнымі з'явамі існуюць прычынныя (прыродныя, дэтэрмiністычныя) адносіны: *дым* — прыкмета агню, высокая *тэмпература* ў чалавека — хваробы, чорная *хмара* — дажджу. Звычайна сімптомы не разглядаюцца ў межах семіётыкі, бо яны адносяцца да прыродных з'яў і не выкарыстоўваюцца для камунікацыі.

Знакі-сімвалы захоўваюць структурнае падабенства прадметаў ці з'яў, перадаюць праз іх асобныя элементы пэўны вобраз. Да іх адносяцца гербы, сцягі, значкі, эмблемы: тэатральная маска (тэатр), відарыс змяі вакол чашы (медыцына) і іншыя.

Нарэшце, вылучаюцца ўласна знакі, якія не маюць ні знешняга, ні прыроднага, ні структурнага падабенства з прадметамі, з'явамі, якія яны абазначаюць. Да такіх знакаў адносяцца большасць моўных знакаў, частка дарожных, некаторыя ўмоўныя абазначэнні на геаграфічных картах, матэматычныя знакі, лічбы, знакі прыпынку і іншыя. Знакі, так ці інакш падобныя на прадметы, як правіла, ужываюцца толькі ў адпаведных сітуацыях (у вызначаным месцы ці часе), па-за межамі якіх яны страчваюць свае семіятычныя функцыі і не ўспрымаюцца як знакі. Так, святлафор функцыяніруе толькі на вуліцы, а на лясной сцяжынцы ці школьным калідоры яго сігналы ніхто не будзе ўспрымаць усур'ёз.

Знакавыя сістэмы будуюцца па строгай іерархіі: усе іх разнародныя элементы размяркоўваюцца па пэўных паверхах, або ярусах. Пры гэтым элементы ніжняга паверха ўваходзяць у склад элементаў больш высокага паверха ў якасці яго частак. Так, у найбольш складанай знакавай сістэме — натуральнай мове — на яе ніжнім паверсе знаходзяцца гукі (у пісьмовай форме — літары). У любой мове колькасць гукаў (літар) невялікая, каля некалькіх дзесяткаў. Але камбінацыі іх на другім паверсе мовы прыводзяць да ўтварэння соцень складоў, далейшае спалучэнне якіх дае тысячы марфем на наступным ярусе мовы. З камбінацыяй марфем складаюцца сотні тысяч слоў, якія, у сваю чаргу, даюць незлічоную колькасць словазлучэнняў і сказаў. У выніку атрымліваецца безліч інфарматыўных адзінак вышэйшага яруса мовы. Семіятычныя адзінкі, якія не маюць прадметных або рэчыўных значэнняў, напрыклад гукі (літары) і склады ў мове, называюцца фігурамі, або субзнакамі, і выкарыстоўваюцца ў якасці будаўнічага матэрыялу знакаў.

Больш простую, але такую ж іерархічную па характары будову маюць іншыя знакавыя сістэмы. Напрыклад, азбука Морзе складаецца ўсяго з адзінак двух паверхаў: на першым — набор кропак і працяжнікаў, на другім — іх камбінацыі, якія дазваляюць кадзіраваць і перадаваць усё, што фіксуецца з дапамогай мовы.

Натуральная мова ў межах семіётыкі характарызуецца практычна ўсімі знакавымі якасцямі і ўласцівасцямі. Матэрыяльна значымыя моўныя элементы суадносяцца са знешнімі прадметамі і з'явамі, абагульняюць іх, перадаюць пра іх звесткі, рэгулярна выкарыстоўваюцца ў працэсах камунікацыі, успрымаюцца іншымі людзьмі, ствараюць адпаведную сістэму і г. д. Але мова ад усіх астатніх знакавых сістэм значна адрозніваецца.

Па-першае, яна выкарыстоўваецца універсальна (несітуацыйна), абслугоўвае ўсе сферы жыцця чалавека і функцыяніруе ў розных умовах яго дзейнасці. Па-другое, яна першасная ў адносінах да астатніх знакаў, сістэмы якіх узнікаюць і будуюцца ўжо на базе натуральнай мовы. Выключэнне складаюць, бадай, толькі некаторыя паралінгвістычныя сродкі зносін (жэсты, рухі цела і да т. п.), якія, аднак, звычайна ўжываюцца ў працэсе маўлення, для экспрэсіўнасці і ўдакладнення таго, пра што гаворыцца. Патрэцяе, натуральная мова стыхійна самаразвіваецца і свядома ўдасканальваецца людзьмі, а змены ў іншых знакавых сістэмах ажыццяўляюцца чалавекам штучна, свядома, планамерна. Акрамя таго, пераважная большасць знакавых сістэм нейтральная да выяўлення пачуццяў, у той час як мова афарбавана эмоцыямі людзей, якія яе ўжываюць.

Найбольш значныя раздзелы, якія вылучаюцца ў семіётыцы, складаюць с е м а н т ы к а (даследуе адносіны знака да адпаведнай рэаліі; гл. **Семантыка**), п р а г м а т ы к а (вывучае адносіны знакаў да таго, хто іх ужывае), с і н т а к т ы к а (аналізуе адносіны паміж самімі знакамі).

Грамадскае жыццё людзей, іх узаемадзеянне з навакольным светам і паміж сабой апасродкавана ў значнай меры шматлікімі знакамі. Таму, чым на больш высокай ступені цывілізацыі знаходзіцца тое ці іншае грамадства, тым больш знакаў яно ўжывае і тым больш яны рафінаваныя і разнастайныя. У будзённы дзень, напрыклад, школьнік з самай раніцы да позняга вечара сутыкаецца са знакамі: званок будзільніка, цыферблат са стрэлкамі, якія паказваюць час, знакі дарожнага руху на вуліцы, дзе шмат рэкламных шыльдаў, званкі на заняткі і з заняткаў, вітанні са знаёмымі і з настаўнікамі, размовы і пісьмовыя знакі ў сшытку, дзённіку і ў класным журнале, геаграфічныя карты з мноствам сімвалаў, матэматычныя, хімічныя, музычныя і іншыя знакі. Цяжка сабе нават уявіць сучаснае жыццё без разнастайных знакаў, якія не толькі дамагаюць арыентавацца ў ім, але і ўспрымаць і вывучаць яго, прымнажаць звесткі пра яго, перадаваць інфармацыю людзям у межах аднаго часу і пакаленням у межах часу гістарычнага.

*Літ.:* М а р т ы н о в В. В. Кибернетика. Семиотика. Лингвистика. Мн., 1966; В е т р о в А. А. Семиотика и её основные проблемы. М., 1968; У в а р о в Л. В. Символизация в познании. Мн., 1971; С т е п а н о в Ю. С. Семиотика. М., 1971; Семиотика и искусствометрия. М., 1972; Ш р е й д е р Ю. А. Логика знаковых систем. М., 1974; И в а н о в В. В. Очерки по истории семиотики в СССР. М., 1976; Я с к е в і ч А. С. У свеце мастацкага твора. Мн., 1977; Г р и б В. В. Проблема взаимосвязи образа и знака: На материалах языкознания. Мн., 1978; К о н д р а т о в А. М. Звуки и знаки. М., 1978; П а н о в Е. Н. Знаки, символы, языки. 2 изд. М., 1983; Семиотика. М., 1983; П л о т н и к о в Б. А. Семиотика текста. Мн., 1992.

*Б. А. Плотнікаў.*

## СЕРБСКАХАРВАЦКАЯ МОВА

Сербскахарвацкая (або сербахарвацкая ці харвацкасербская) мова належыць да паўднёваславянскіх моў (гл. **Паўднёваславянскія мовы**). Родная мова харватаў, сербаў, чарнагорцаў і «мусульман» — жыхароў Босніі і Герцагавіны, а таксама ў суседніх з былой СФРЮ дзяржавах (Венгрыя, Румынія) і за акіянам — у ЗША і Канадзе (усяго 16,5 млн. чалавек). Сербскахарвацкая мова функцыяніруе ў 2 разнавіднасцях: сербскай (усходняй), якая карыстаецца кірыліцай, і харвацкай (заходняй) — карыстаецца лацініцай. У сербскахарвацкай мове вылучаюцца 3 дыялекты: штокаўскі, кайкаўскі і чакаўскі (назвы паводле агаласоўкі займенніка *што: штö — kajча*), а ў залежнасці ад вынікаў праславянскага *ě*⟩*ie*, *э* або *i* адрозніваюцца екаўскія, экаўскія і ікаўскія гаворкі, разыходжанні паміж якімі адбыліся яшчэ ў дапісьмовы перыяд славянскай гісторыі.

Першыя пісьмовыя помнікі сербскахарвацкай мовы датуюцца канцом 12 — пачаткам 13 ст. (глагалічны Башчанскі надпіс, кірылічныя — грамата Куліна, Міраславава і Вуканава евангеллі). Развіццё пісьменства і літаратурнай мовы затармазілася нашэсцем туркаў (канец 14 ст.) і шматвяковым турэцкім прыгнётам. У 16—17 ст. літаратурная дзейнасць развівалася пераважна ў Дуброўніцкай рэспубліцы і ў харвацкіх землях, якія ўваходзілі ў Аўстрыю і Венгрыю. Сучасная сербскахарвацкая літаратурная мова сфарміравалася ў 1-й палавіне 19 ст. на базе наваштокаўскіх гаворак. У яе фарміраванні вызначальнай была дзейнасць серба Вука Караджыча (1787—1864) і харвата Людавіта Гая (1809—72).

Вакалізм сербскахарвацкай мовы характарызуецца наяўнасцю доўгіх і кароткіх галосных *(а, е, о, и, у)*, аднолькавасцю якасці галосных у на-

цiскных i ненацiскных складах, палітанічным націскам. Колькасныя адрозненні галосных сэнсава адрозніваюць словы: *гра̂д* (тут *ā* доўгае) 'горад' — *гра̏д* (тут *а* кароткае) 'град'. Націскны склад характарызуецца рухам тону (узыходная і сыходная інтанацыі) і ўзмацненнем складаўтваральнага элемента (галоснага гука і *р*). Гэты элемент можа быць доўгім і кароткім. Таму націск бывае чатырох тыпаў: кароткі ўзыходны (*ѝгра, мр̀твац*), доўгі ўзыходны (*тра́ва, бр́вно*), кароткі сыходны (*ча̏с, мр̏ква*), доўгі сыходны (*да̂р, жр̂тва*).

З 25 зычных пяць мяккія: *j* [й], *љ* (lj) [л'], *њ* (nj) [н'], *ђ* (dj) [дж], *ћ* (ć) [ч'], пры вымаўленні якіх кончык языка апускаецца за ніжнія зубы, таму сербскахарвацкія *љ, њ* успрымаюцца як больш мяккія, чым беларускія [л'], [н']. Цвёрды *л* у сербскахарвацкай мове альвеалярны, афрыкаты *ч* (č) [ч] і *џ* (dž) [дж] — цвёрдыя. Санорны *р* у пачатку слова перад зычным (апрача *j*) або ўнутры слова паміж зычнымі ці перад *о*, якое паходзіць з *л*, з'яўляецца складаўтваральным: *р̏-ва̄ч*, 'барацьбіт', *по-вр-шѝна* 'паверхня', *тр̑-о* 'цёр' (ад *тр̏ти* 'церці'). Цвёрдыя зычныя перад *е, и* не памякчаюцца. Гук [х] менш актыўны, чым беларускі [х], таму шматлікія гаворкі сербскахарвацкай мовы часткова або цалкам страцілі яго або замянілі санорнымі [в], [й]. Гукі [ж(ž)], [ш(š)], [ц(c)] акустычна ўспрымаюцца больш мяккімі, чым беларускія [ж], [ш], [ц].

Назоўніку, прыметніку, займенніку і лічэбніку ўласціва скланенне паводле 7 склонаў у адзіночным ліку і 6 (без клічнага) у множным ліку. Значэнне адушаўлёнасці марфалагічна выражаецца толькі ў назоўніках мужчынскага роду. Большасць якасных прыметнікаў і некаторыя іншыя маюць дваякую парадыгму — кароткую (*мла̂д* 'малады', *мла̂да* 'маладая') і поўную (*мла̂дӣ* 'малады', *мла̂да̄* 'маладая'), ва ўжыванні якіх праяўляюцца рэлікты катэгорыі неазначальнасці/азначальнасці. Сербскахарвацкі дзеяслоў уяўляе сабою складаны комплекс простых і састаўных спрагаемых форм. Абвесны лад мае формы цяперашняга, прошлага (аорыст, імперфект, перфект, плюсквамперфект) і будучага I або залежнага (*ја̂ћу рѐћи* або *рѐћи ћу* 'я скажу') і II або незалежнага (*бӯдем нòсио* 'буду насіць') часоў. Дзеепрыметнікі мяняюцца паводле роду і ліку. Інфінітыў дзеяслова можа замяняцца канструкцыяй да + + цяперашні час (*мо̑рам ра́дити* = = *мо́ра̄м да ра́да̄м* 'я павінен працаваць'). Часціца *да* выкарыстоўваецца таксама пры ўтварэнні будучага I часу (*ја̂ ћу да чѝта̄м* 'буду чытаць').

Члены сказа размяшчаюцца свабодна, аднак энклітыкі (займеннікавыя, дзеяслоўныя, часціцы *се, ли*) накладваюць пэўныя абмежаванні на пабудову сказа.

*Літ.:* Цьвяткоў Л. Некаторыя рысы іншаславянскай фонэтыкі ў беларускім лексічным матэрыяле // Зап. аддзелу гуманіт. навук. Кн. 2. Працы кляса філалогіі. Мн., 1928. Т. 1; Толстой Н. И. Об изучении полесской лексики: (Предисловие редактора) // Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. М., 1968; Клімчук Ф. Д. Некаторыя палеска-паўднёваславянскія паралелі // Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур: (Тэз. дакл. і паведамленняў II рэспубліканскай канф.). Мн., 1973; Цыхун Г. А. Беларуска-паўднёваславянскія лексічныя сувязі // Бел. лінгвістыка. 1974. Вып. 5; Яго ж. Типологические проблемы балкано-славянского языкового ареала. Мн., 1981; Гудков В. П. Сербохорватский язык // Славянские языки. М., 1977; Казлова Р. М. Характарыстыка некаторых усходнеславянска-сербскахарвацкіх ізалекс: (Этымалогія і рэканструкцыя) // Беларуская мова. Мн., 1980. Вып. 7; Запрудскі С. М. З сербскахарвацка-беларускіх лексічных паралелей // Бел. лінгвістыка. Мн., 1989. Вып. 36; Леонова Л. В. Сербскохорватский язык. Мн., 1988.  *І. І. Лучыц-Федарэц.*

## СЕРЖПУТОЎСКІ АЛЯКСАНДР КАЗІМІРАВІЧ



Беларускі фалькларыст і этнограф А. К. Сержпутоўскі нарадзіўся 21 чэрвеня 1864 г. ў вёсцы Бялевічы Слуцкага раёна Мінскай вобласці. У 1884 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам у Слуцкім і Мазырскім паветах (1884—1893). У 1904 г. скончыў Пецярбургскі археалагічны інстытут. Працаваў у этнаграфічным аддзеле Рускага музея (1906—30). Быў абраны правадзейным членам Інбелкульта (1925). Памёр 5 сакавіка 1940 г.

Значнае месца ў даследчай дзейнасці А. К. Сержпутоўскага займала мовазнаўчая тэматыка. У дарэвалюцыйныя этнаграфічныя нарысы пра жыццё, працу, побыт і вераванні беларусаў-палешукоў, напісаныя на рускай мове, ён уводзіў многа мясцовых слоў і выразаў, тлумачыў іх значэнне, а часам і паходжанне. Творы ж вуснай народнай творчасці імкнуўся запісваць дакладна, з поўным захаваннем мясцовага вымаўлення. У працы «Граматычны нарыс беларускай гаворкі вёскі Чудзіна, Слуцкага павета, Мінскай губерні» (1911) А. К. Сержпутоўскі на аснове матэрыялаў, сабраных падчас экспедыцый 1906 і 1907 гадоў, а таксама назіранняў больш ранняга перыяду, зрабіў усебаковае апісанне важнейшых асаблівасцей гаворкі вёскі ў адпаведнасці з праграмай, выдадзенай Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук пад рэдакцыяй Я. Ф. Карскага. Нарыс пачынаецца кароткім уступам, у якім прыводзяцца геаграфічныя і этнаграфічныя звесткі пра вёску Чудзін. Затым ідуць раздзелы, прысвечаныя фанетыцы, словаўтварэнню, марфалогіі, сінтаксісу і лексіцы мовы яе жыхароў. У фанетычным раздзеле (складаецца з трох параграфаў — «Галосныя», «Зычныя» і «Націск») даволі падрабязна ахарактарызавана вымаўленне гукаў у розных фанетычных пазіцыях і паказана месца націску ў знамянальных часцінах мовы і іх граматычных формах. У трох параграфах раздзела «Суфіксы слоў» пералічаны афіксы, пры дапамозе якіх утвараюцца назоўнікі розных семантычных груп (са значэннем прадметнасці, асобы, месца і г. д.), формы зmяняльных часцін мовы (памяншальныя ад назоўнікаў, ступені параўнання ад якасных прыметнікаў і інш.), і прыкладзены спіс складаных слоў, што ўжываюцца ў гаворцы. У раздзеле «Асаблівасці сінтаксісу» зафікса-


БѢЛОРУССКАГО НАРѢЧІЯ

**А. К. Сержпутоўскі. «Граматычны нарыс беларускай гаворкі вёскі Чудзіна Слуцкага павета Мінскай губерні». 1911.**

ваны некаторыя спецыфічныя для беларускай мовы наогул і для гаворкі Чудзіна ў прыватнасці словазлучэнні. Багаццем фактычнага матэрыялу вызначаецца раздзел «Матэрыялы для слоўніка». У ім больш за 2,5 тысячы слоў і фразеалагізмаў, пададзеных без тлумачэння значэнняў па семантычных групах. Такіх груп выдзелена 35: назвы прыродных з'яў, вопраткі, ежы, дрэў, траў, кветак і ягад, свойскіх жывёл, хвароб і лекаў ад іх і г. д.

Збіраннем беларускай лексікі А. К.Сержпутоўскі займаўся ўсё жыццё. Ён склаў два слоўнікі народнай мовы. Першы слоўнік складальнік кваліфікаваў як дадатак да «Зборніка беларускіх прыказак і прымавак». За гэтыя дзве працы, прадстаўленыя Рускаму геаграфічнаму таварыству, даследчык быў узнагароджаны малым залатым медалём. Рукапіс слоўніка, на жаль, не захаваўся. Пра яго памер, характар і лінгвістычныя вартасці можна меркаваць толькі па водгуку Дз. К. Зяленіна. Рукапіс слоўніка займаў 158 старонак вялікага фармату і змяшчаў каля 4 тысяч слоў. Усе яны, як прыказкі і прымаўкі, былі зафіксаваны ў паўднёвай частцы Слуцкага і паўночнай частцы Мазырскага паветаў. Дз. К. Зяленін у сваім водгуку адзначаў, што, насуперак прадстаўленню самога ўкладальніка, слоўнік нельга лічыць дадаткам да зборніка прыказак і прымавак, што гэта зусім самастойныя працы. Значэнні слоў у слоўніку раскрыты пры дапамозе рускіх лексічных адпаведнікаў або апісальна, аднак не заўсёды з патрэбнай дакладнасцю. Д. К. Зяленін ухваляў вельмі дакладны запіс прыказак, прымавак і слоў з поўным захаваннем усіх фанетычных і граматычных асаблівасцей мясцовай гаворкі і раіў аўтару з дзвюх частак прадстаўленай ім працы зрабіць больш поўны слоўнік, уключыўшы ў яго ўвесь лексічны матэрыял з прыказак і прымавак.

Страчана была і другая лексікаграфічная праца А. К. Сержпутоўскага — «Кароткі слоўнік беларускай дзіцячай мовы». Вядома, што слоўнік быў завершаны ў канцы 1918 г. і перададзены ў Аддзяленне рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук СССР, якое прыняло пастанову аб яго выданні пад рэдакцыяй акадэміка Я. Ф. Карскага. Магчыма, праца была пераслана Інбелкульту і загінула ў Айчынную вайну.

У савецкі час А. К. Сержпутоўскі ўдзельнічаў у экспедыцыях на тэрыторыі Беларусі, збіраў мясцовую лексіку і перадаваў яе Слоўнікавай камісіі Інбелкульта, якая ў 1927 г. адзначыла яго грашовай узнагародай за 1357 слоў-картак высокай якасці.

У 1918 г. А. К. Сержпутоўскі выступіў на старонках часопіса «Чырвоны шлях» з артыкулам «Да пытання пра беларускую арфаграфію». Адзначыўшы наяўнасць арфаграфічнага разнабою ў дарэвалюцыйных беларускіх выданнях, ён звярнуў увагу лінгвістаў на неабходнасць навуковай распрацоўкі і прыняцця адзіных і абавязковых для ўсіх правапісных правіл, без якіх беларуская літаратурная мова, стаўшы пасля 1917 года мовай дзяржаўнага справаводства, навукі і нацыянальнай культуры, не можа абыходзіцца. У 1926 г. А. К. Сержпутоўскі ўдзельнічаў у рабоце Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, быў членам дзвюх яе камісій — графічнай і правапіснай. Ён быў прыхільнікам увядзення ў беларускі алфавіт асобных літар для абазначэння афрыкат *дз* і *дж*, паслядоўнікам Б. Тарашкевіча ў правапісе чужаземных слоў.

*Літ.:* Бондарчик В., Федосик А. А. К. Сержпутовский. Мн., 1966.

*І. К. Германовіч.*

## СІМЯОН ПОЛАЦКІ



Беларускі і рускі пісьменнік, перакладчык, педагог, асветнік, грамадскі і царкоўны дзеяч Пятроўскі-Сітніяновіч Самуіл (у манастве Сімяон) Гаўрылавіч нарадзіўся ў 1629 г. ў Полацку. У 1650 г. скончыў Кіева-Магілянскую калегію, вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі, верагодна, тады ўступіў у брацтва уніяцкага базыльянскага ордэна. У 1656 г. прыняў праваслаўнае манаства, выкладаў у праваслаўнай брацкай школе пры полацкім Богаяўленскім манастыры. У 1664 г. прыняў запрашэнне пераехаць у Маскву, там празваны Полацкім. У вучылішчы пры Заіконаспаскім манастыры, у складзе якога былі служачыя асабістай канцылярыі цара, выкладаў латынь, граматыку, паэтыку, рыторыку. Быў перакладчыкам пры блізкім да цара Газскім мітрапаліце Паісіі Лічарыдзе. З 1667 г.— настаўнік царскіх дзяцей, першы прыдворны паэт (зборнік «Рыфмалагіён», 1679 г.).

У 1678 г. Сімяон Полацкі арганізаваў і ўзначаліў Верхнюю друкарню ў Крамлі, надрукаваў шэраг сваіх кніг, у тым ліку — «Букварь языка славенска» (1679). Па яго ініцыятыве заснавана першая ў Маскве вышэйшая навучальная ўстанова Эліна-грэчаская акадэмія (потым Славяна-грэка-лацінская акадэмія). Памёр 25 жніўня 1680 г.

Літаратурная творчасць ранняга беларускага перыяду С. Полацкага адносіцца да часу, калі на Беларусі фактычна існавала пісьмовае чатырохмоўе з пэўным размежаваннем у функцыях паасобных моў. Царкоўнаславянская мова як літургічная абслугоўвала галоўным чынам патрэбы праваслаўнай і уніяцкай царквы. Беларуская пісьмовая мова, страціўшы да гэтага часу сваю ранейшую ролю мовы дзяржаўнай, выкарыстоўвалася ў павучальнай і службовай літаратуры прыхільнікаў уніяцтва. Польская мова надзейна замацоўвала свае пазіцыі ў канцылярска-юрыдычным ужытку, а латынь паступова станавілася мовай навукі.

С. Полацкі як адзін з самых адукаваных людзей свайго часу ў залежнасці ад абставін і інтарэсаў свайго акружэння пісаў творы на кожнай з гэтых моў. Але найбольшае месца ў яго ранняй творчасці займала мова беларуская. Пра гэта паэт успамінаў пазней: *Писах в начале по языку тоему, // Иже свойственный бе моему дому.*

З пункту погляду адносін Полацкага да тагачаснай моўнай сітуацыі вельмі паказальная яго вершаваная дэкламацыя «Вершы на шчаслівае вяртанне цара яго міласці з-пад Рыгі», напісаная ў канцы 1656 г. Яна складаецца з паасобных частак на царкоўнаславянскай, беларускай, польскай і лацінскай мовах. У ранніх вершах на беларускай мове вельмі адчувальныя польскі і царкоўнаславянскі ўплывы. Тут звычайнымі з'яўляюцца назоўнікі польскага паходжання *винница, ездец, звытяжца, злото, нагрода, облок, потвар, слонце, фест, человек,* прыметнікі *злотый, крававый, обфитый, сличный, слонечный, срогий, цный,* дзеясловы *волати, змнейшати, мдлети, уфати, фолговати,* а таксама разнастайныя словы іншых лексіка-граматычных разрадаў: *венц, внет, кгды, кторый, нех, никгды, тераз, тылько, юж* і інш. З ліку польскіх граматычных сродкаў вылучаюцца формы загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку з канчаткам *-мы*: *благаймы, даймы, абачмы, плачмы, спеваймы, целуймы* і г. д. Значэнне факультатыўнай нормы маюць і формы прошлага часу 2-й асобы адзіночнага ліку польскага ўзору на *-есь: бралесь, велелесь, волалесь, далесь, мелесь, принялесь, рачилесь.*

Царкоўнаславянская моўная стыхія найбольш прыкметна адлюстравана ў лексіцы. Тут вылучаюцца перш за ўсё шматлікія няпоўнагалосныя лексемы

тыпу *бремя, власть, враг, глава, глас, град, здравие, злато, облак, страж, чрево.* Царкоўнаславянскі каларыт надаюць творам шматлікія назоўнікі *агнец, алчба, выя, десница, жезл, нужда, оружие, стезя,* дзеясловы *владати, жаждати, зрети, лобзати, обещати, рыдати, хранити, чаяти* і інш. Мова гэтых твораў наогул характарызуецца варыяцыяй лексічных сродкаў рознага паходжання: у адным і тым жа значэнні ўжываюцца, напрыклад, *голова, глава* і *глова, мощ* і *моц, нагорода* і *награда, нощ* і *ноч, облак* і *облок, овощ* і *овоц* і г. д. З граматычных царкоўнаславянскіх рыс выдзяляецца канчатак *-аго/-яго* ў родным склоне прыметнікаў: *вышняго, доб̄раго, небеснаго, новаго, святаго, чулаго* і інш. У 2-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў цяперашняга і будучага часу побач з формамі на *-ш* трапляюцца і царкоўнаславянскія на *-шы: будешы, грядешы, желаешы, напоишы, пасешы, святишы* і інш. Пры выражэнні прошлага часу адначасова з перфектам выкарыстоўваюцца і формы аорыста 3-й асобы абодвух лікаў: *вниде, показа, созда, идоша, падоша, сташа, умроша.*

С. Полацкі пісаў свае творы ў перыяд, калі беларуская літаратурная мова зноў пачала падвяргацца моцнаму царкоўнаславянскаму ўплыву, і гэта знайшло адлюстраванне ў мове яго твораў. Пасля пераезду ў Маскву Полацкі пісаў усе свае творы на царкоўнаславянскай мове маскоўскага тыпу.

Увага Сімяона Полацкага да культуры і мастацтва, яго заклік да наватарскага пошуку, насычанасць яго твораў актуальнай сацыяльна-філасофскай і гістарычнай праблематыкай, гуманістычная накіраванасць яго светапогляду ўзвышаюць пісьменніка да ўзроўню выдатнага культурна-грамадскага дзеяча і асветніка Беларусі і Расіі эпохі славянскага барока.

*Тв.:* Избр. соч. М.; Л., 1953; Вирши. Мн., 1990.

*Літ.:* Татарский И. К. Симеон Полоцкий: (его жизнь и деятельность): Опыт исследования из истории просвещения и внутренней церковной жизни во вторую половину XVII века. М., 1886; Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980.

*А. І. Журайскі, Л. У. Званарова.*

## СІНАНІМІЯ

Сінанімія (грэч. synónymia аднайменнасць) — поўнае ці частковае супадзенне значэнняў моўных адзінак. Сінанімічнымі могуць быць словы, фразеалагізмы, марфемы, словаўтваральныя мадэлі, сінтаксічныя канструкцыі.

Лексічныя сінонімы — гэта блізказначныя словы і выразы, якія абазначаюць адно паняцце, але адрозніваюцца адценнямі значэння або стылістычнай афарбоўкай, а таксама спалучальнасцю з іншымі словамі. Характарызуючы вучонага, пісьменніка, вайскоўца, можна сказаць: *вядомы* 'пра якога ведаюць', *знакаміты, слаўны, славуты* 'шырока вядомы', *відны, выдатны* 'вышэй звычайнага ўзроўню', *папулярны* 'які карыстаецца сімпатыяй грамадства', *легендарны* 'незвычайны, казачны', *слынны* (слова дыялектнае, таксама абазначае 'шырока вядомы'). Дзеясловы *адкрыць, адгарнуць, адчыніць* — таксама сінонімы. Але спалучаюцца яны з рознымі назоўнікамі: *адкрыць вочы, адгарнуць старонку, адчыніць дзверы.*

Група блізказначных слоў утварае сінанімічны рад, у якім вылучаецца адно слова, якое выражае агульнае для ўсіх членаў гэтага сінанімічнага рада паняцце і называецца дамінантай. У сінанімічным радзе *рэха, водгук, адгук, водгулле, водгалас, адгалоссе, розгалас, адпеў, пагалосак, пошчак, рэзананс, водзыўкі* дамінантай з'яўляецца першае слова — *рэха.*

Колькасць членаў у сінанімічных радах розная. Як сінонімы да асобных слоў могуць ужывацца фраземы, перыфразы: *перашкаджаць — замінаць, ставіць палкі ў колы, стаяць на дарозе, падстаўляць ножку, блытацца пад нагамі, круціцца пад нагамі, звязваць па руках і нагах.*

Сінанімічныя рады ўтвараюцца рознымі шляхамі. У сучаснай беларускай мове існуюць шматлікія спрадвечныя словы, якія на розных этапах развіцця мовы па-рознаму называюць адно і тое паняцце: *змагчы — адолець, калодзеж — студня, каня — кнігаўка, няволя — прыгнёт, пограб — склеп, скрутак — сувой* і інш.

Частка лексічных сінонімаў — словы, запазычаныя з іншых моў у розныя гістарычныя перыяды: *гадзіннік — загарак, занавеска — фіранка, зладжана — гарманічна, перапынак — антракт, скрынка — шуфляда.* Сінаніміка беларускай літаратурнай мовы няспынна папаўняецца лексічнымі адзінкамі з мясцовых гаворак: *абрус — настольнік, некранутае месца — неруш, прымушаць — прысільваць.*

Сінонімы, якія адрозніваюцца сэнсавымі адценнямі, называюцца семантычнымі або ідэаграфічнымі. Семантычныя сінонімы — агульнаўжывальныя, нейтральныя словы: *навек — незваротна, невядомы — нязнаны, разумны — мудры.*

Сінонімы, якія адрозніваюцца стылістычнай афарбоўкай, называюцца стылістычнымі. Стылістычныя сінонімы ў сучаснай беларускай мове маюць рознуню ступень актыўнасці ўжывання. Напрыклад, словы *борць, дакляраваць, квадра, паходня, перст, скарбовы* — архаізмы. Сфера іх ужывання абмежаваная. Ім адпавядаюць сучасныя агульнаўжывальныя словы *вулей, абяцаць, чвэрць, факел, палец, дзяржаўны.*

Параўнальна з нейтральнымі, агульнаўжывальнымі лексічнымі адзінкамі стылістычна афарбаванымі з'яўляюцца словы: запазычаныя *(адзяленне — сегрэгацыя, незвычайны — экзатычны, рукапіс — манускрыпт)*; дыялектныя *(авечка — шутка, гаварыць — зюкаць, града — ляха, вытаптаць — здратаваць, ліхарадка — ханджа)*; спецыяльныя *(лодка — барка, барліна, лайба; насып — бруствер, размяшчэнне — дыслакацыя)*; жаргонныя *(глупства — туфта, грошы — хрусты, гультай — філон, скандал — буза, схавацца — зашыцца, уцячы — зліняць).*

Стылістычнымі сінонімамі лічацца эўфемізмы — словы і спалучэнні слоў, якія ўжываюцца для замены іншых слоў і выразаў, што гучаць груба, зняважліва або выклікаюць непажаданыя ці непрыемныя эмоцыі (гл. **Эўфемізмы**). Так, замест *наркотык* гаворым *белая смерць, памерці — пайсці на той свет, хлусіць — гаварыць няпраўду.*

У сучаснай беларускай мове найбольш сінонімаў, якія адрозніваюцца і сэнсам, і стылістычнай афарбоўкай. Такія сінонімы называюцца семантыка-стылістычнымі. У прыкладах з твораў М. Танка: *Не раз я за мурам астрожным па родных гонях сумаваў; Адны любяць пад песню схіліць галаву, зажурыцца, як неба ўвосень; Ну, засні і не варта тужыць; Вось ты тут сохнеш за астрожным мурам.* Сінонімы *сумаваць — журыцца — тужыць — сохнуць* адрозніваюцца сэнсам — паказваюць розныя ступені чалавечага пачуцця — і стылістычнай афарбоўкай: *сумаваць, журыцца, тужыць* — нейтральныя, *сохнуць* — гутарковы.

Паміж большасцю блізказначных слоў сінанімічныя адносіны склаліся даўно. Такія сінонімы выкарыстоўваюцца ў мове традыцыйна і называюцца моўнымі або узуальнымі (прынятымі ў мове).

У мастацкай літаратуры, публіцыстыцы, гутарковай мове часта сінанімізуюцца лексічныя адзінкі, якія не маюць сэнсавай сувязі і збліжаюцца толькі ў пэўным кантэксце. Гэта сінонімы маўлення, або кантэкстуальныя, аўтарскія, аказіянальныя. *Агалела поле. Зняты збажына з яго даўно // Глуха, пуста і зацята і нікога не відно* (Я. Колас). Кожнае з ужытых Коласам слоў мае сваё значэнне: *глуха* — 'бясшумна', *пуста* — 'нічога няма', *зацята* — 'скрытна'. Стаўшы побач у паэтычным кантэксце, яны набываюць агульнае значэнне — 'непрытульна' і называюцца кантэкстуальнымі сінонімамі.

Другі від сінонімаў, пашыраных у беларускай мове,— сінтаксічныя сінонімы. Гэта канструкцыі, аднародныя з пункту погляду структурна-сэнсавага і функцыянальнага, але адметныя семантычнымі адценнямі (у

межах агульнага іх значэння) і стылістычнай афарбоўкай.

Асноўным крытэрыем вызначэння сінанімічнасці дзвюх ці некалькіх канструкцый большасць вучоных прызнаюць іх узаемазамяняльнасць. Безумоўна, ёсць падстава сцвярджаць, што, не прымаючы пад увагу магчымасці ўзаемазамены як метаду супастаўлення, цяжка, нават нельга гаварыць пра сінаніміку моўных адзінак любога ўзроўню. Пры вызначэнні сінтаксічных сінонімаў, напрыклад у межах прыназоўнікава-склонавых спалучэнняў, трэба ўлічваць не адзін які-небудзь моўны фактар, а цэлы комплекс узаемазвязаных характэрных рыс, якімі дзве і болей канструкцый з аднаго боку — аб'ядноўваюцца, з другога — адрозніваюцца паміж сабой. Такімі прыкметамі сінанімічнасці сінтаксічных канструкцый з'яўляюцца: структурная супастаўляльнасць адзінак, іх аднароднасць; агульнасць сінтаксічнага значэння; разнаструктурнасць членаў сінанімічнага рада; наяўнасць сэнсавых адценняў агульнага значэння; аднолькавая лексічная напаўняльнасць канструкцый; узаемазамяняльнасць спалучэнняў. Названыя рысы блізказначных канструкцый пры супастаўленні і выступаюць як істотная прыкмета іх сінанімічнасці. Так, сінтаксічнымі сінонімамі, напрыклад, з'яўляюцца канструкцыі: *пайсці да рэчкі — пайсці пад рэчку, пайсці ў бок рэчкі, пайсці ў напрамку рэчкі; працаваць каля лесу — працаваць пад лесам, працаваць паблізу лесу, працаваць недалёка ад лесу.* Агульныя значэнні для гэтых канструкцый — кірунак руху да прадмета (першая група) і месца дзеяння паблізу прадмета (другая група). На адрозненне іх сэнсавых адценняў у межах кожнай групы выразна паказваюць прыназоўнікі. Сінтаксічныя канструкцыі таксама ўтвараюць сінанімічныя пары або рады, дзе адна з канструкцый звычайна выступае як *асноўная (дамінанта)*, якая ў параўнанні з іншымі характарызуецца прадуктыўнасцю і найбольш свабодная адносна ўмоў ужывання.

Прыназоўнікава-склонавыя канструкцыі, якія не аб'яднаны блізкім значэннем, не з'яўляюцца сінанімічнымі, напрыклад: *ехаць у лес, ехаць пад лес, ехаць каля лесу, ехаць за лес, ехаць праз лес.* Пры агульным прасторавым значэнні гэтыя канструкцыі выражаюць: кірунак руху ў сярэдзіну прасторавай адзінкі, кірунак у бок прадмета, рух паблізу прадмета, рух на другі бок прадмета, накіраванасць руху праз пэўную прастору; узаемазамена іх выключаецца, бо выклікае істотнае змяненне значэння. Такія канструкцыі звычайна маюць іншыя сінанімічныя адпаведнікі: *ехаць у лес* і *ехаць да лесу, ехаць недалёка ад лесу; ехаць за* і *ехаць у бок лесу, ехаць у напрамку лесу; ехаць каля лесу* і *ехаць паблізу лесу, ехаць недалёка ад лесу; ехаць за лес* і *ехаць на той бок лесу; ехаць праз лес* і *ехаць па лесе, ехаць лесам.*

Сінанімічнай сувяззю ў межах словазлучэння найбольш шырока звязваюцца сінтаксічныя канструкцыі з прасторавымі, часавымі, аб'ектнымі, прычыннымі і іншымі адносінамі: *Свісталі шпакі* ***ў садах*** (М. Лупсякоў); Усюды ***па садах*** *спявалі птушкі* (М. Лупсякоў); *А там,* ***за ціхаю дарогай,*** *шуміць бярэзнік малады* (Я. Колас); *Недалёка,* ***па той бок дарогі,*** *нехта заспяваў* (П. Пестрак); *А хіба можна ўжо ўстрымацца,* ***у час касьбы*** *не пакупацца* (Я. Колас); *...****у касьбу*** *запахлі мурагі* (Я. Колас); *Максім зразумеў, што* ***са злосці*** *нагаварыў лішняе* (І. Шамякін); *Слухаў дзед Талаш і тросся* ***ад злосці*** *на паноў* (Я. Колас) і інш.

Як сінтаксічныя сінонімы могуць выступаць не толькі прыназоўнікавыя спалучэнні, але і прыназоўнікавыя канструкцыі і беспрыназоўнікавыя склонавыя формы: *Двое людзей ішлі* ***гэтым часам па лясной дарозе*** (М. Паслядовіч); *Ішоў я* ***лясной дарогай*** (П. Броўка); *Буслы вярталіся на дзіва* ***ў такую*** *раннюю* ***пару*** (П. Глебка); *Бяда падарожнаму* ***гэткай парою*** *дарогу вялікую перабываць* (Я. Купала); ***У той жа дзень*** *яны прывялі ў ваенкамат бацьку* (І. Шамякін); ***Таго дня*** *да Мінску паехала Зося* (Я. Купала); ***Той дзень...*** *мы ўсе сабраліся* (Ф. Багушэвіч); параўнальныя звароты і творны параўнання: *Лес цягнуўся,* ***як падкова,*** *роўным пайкругам* (Я. Колас); *Каля пасады лесніковай цягнуўся гожаю* ***падковай*** *старый, высокі лес цяністы* (Я. Колас).

Да сінтаксічных сінонімаў можна аднесці таксама некаторыя дадзеныя азначальныя часткі складаназалежнага сказа і адпаведныя ім дзеепрыметныя словазлучэнні *(Неба,* ***якое на захадзе зацягнулі хмары,*** *непрыветна цямнела — Неба,* ***на захадзе зацягнутае хмарамі,*** *непрыветна цямнела);* дадзеныя часткі складаназалежнага сказа і дзеепрыслоўныя словазлучэнні ці адзіночныя дзеепрыслоўі ***(Калі [Ганна] ішла назад,*** *не чула пад сабой зямлі —* ***Ідучы назад,*** *Ганна не чула пад сабой зямлі)* і інш.

Сінаніміка сучаснай беларускай мовы сведчыць пра яе лексічнае і граматычнае багацце, яе бязмежныя выяўленчыя магчымасці.

*Літ.:* Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976; Яўневіч М. С. Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Мн., 1977; Сухотин В. П. Синтаксическая синонимика в современном русском литературном языке. М., 1960; Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фразеалогія. Лексікаграфія. Фразеаграфія. Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. 3 выд. Мн., 1993; Беларуская мова. / Пад рэд. М. С. Яўневіча. Мн., 1991; Юрэвіч А. К. Стылістыка беларускай мовы. 2 выд. Мн., 1992.

*А. К. Юрэвіч* (лексічная сінанімія), *М. С. Яўневіч* (сінтаксічная сінанімія).

## «СІНОНІМА СЛАВЕНАРОСКАЯ»

«Сінонімa славенароская» — тлумачальна-перакладны слоўнік старабеларускай літаратурнай мовы 17 ст. Паводле часу стварэння вучоныя адносяць яго да самых апошніх помнікаў беларуска-ўкраінскай этнічнай супольнасці.

Звесткі пра аўтара, яго нацыянальную прыналежнасць і мэту стварэння слоўніка адсутнічаюць. На помнік першы звярнуў увагу ўкраінскі даследчык П. Жыцецкі і надрукаваў яго ў дадатку да сваёй працы «Нарыс літаратурнай гісторыі маларускай гаворкі ў XVII стагоддзі з дадаткам слоўніка кніжнай маларускай мовы па рукапісе XVII стагоддзя» (Кіеў, 1889). Вучоны палічыў слоўнік за чарнавую працу і пры передруку тэксту зрабіў паасобныя праўкі, беручы за ўзор украінскую мову свайго часу. На жаль, арыгінал знік з поля зроку даследчыкаў, і мы маем справу са слоўнікам у рэдакцыі П. Жыцецкага.

Даследчыкамі не адразу быў належна ацэнены арыгінальны характар помніка. У прыватнасці, П. Жыцецкі і Я. Янаў лічылі «Сіноніму славенароскую» пераробкай «Лексікона славенароскага» П. Бярынды. Пазнейшыя даследчыкі (В. В. Німчук, І. П. Чапіга і інш.) знаходзяць уплыў «Лексікона...» толькі на першую частку «Сінонімы...».

Сучаснае прачытанне помніка паказвае, што яго аўтар, творча выкарыстоўваючы лексікаграфічны вопыт папярэднікаў, ішоў арыгінальным шляхам, выпрацоўваў свае прынцыпы падачы слоў і іх тлумачэння. «Сінонімa славенароская» — слоўнік новага тыпу: у рэестравай частцы слоўніка пераважае старабеларуская лексіка, якая паслядоўна перакладаецца ў тлумачальнай частцы на стараpускую. У апошняй сустракаецца яшчэ нямала старaславянізмаў, што адпавядала тагачаснаму стану рускай мовы. Багаты стараславянскі элемент, як вядома, можна назіраць у рускай літаратурнай мове і ў значна пазнейшыя часы. Асаблівасцю ж старарускай мовы, прадстаўленай у перакладной частцы слоўніка, з'яўляецца высокая частотнасць ужывання дыялектнай лексікі.

Распрацоўваючы тып слоўніка для моў блізкароднасных, якімі былі старабеларуская і старaруская з яшчэ празрыстымі на той час прыкметамі агульнасці паходжання, складальнік меў права назваць яго «Сінонімай», удакладніўшы характарыстычным азначэннем «славенароская». Пры нядаўняй разгалінаванасці абедзвюх моў кожны рэестравы нумар «Сінонімы славенароскай» успрымаўся як сінанімічны рад.

У цэлым помнік з'яўляецца сінанімічным слоўнікам усяго ўсходнеславянскага моўнага рэгіёна: *ворагвраг, супостат; брехание — лаяние, рыкание, лжа; высокій — выспрны [й], крайны [й], вы [ш] ны [й]; наглядаю— назіраю, наблюдаю; стыдаюся — стыджуся, срамлюся; жалую — щажу, пекуся, сетую, ревную.*

Аб'ём «Сінонімы...» для свайго часу даволі значны: каля 5 тысяч рэестравых радоў.

Для нас помнік найперш — найбагацейшая крыніца нацыянальнага слова, якое захавала праз стагоддзі пераемнасць з беларускай літаратурнай мовай: *бліскавіца, блазен, бок, брама, бруд, торба, сукня, ховаю, ужываю, хапаю, ярмо, таемніца, спочатку.*

Паводле складу лексікі слоўнік належыць да ліку дыферэнцыйных. Ён уключае ў сябе найчасцей тыя старабеларускія лексемы, якія адрозніваюцца ад старарускіх адпаведнікаў лексічным значэннем *(блазенство — уродство; блукаюся — скитаюся; вандрованіе — странствие; вапно — мел),* часам — асаблівасцямі словаўтварэння і радзей — граматычнымі ці фанетычнымі прыкметамі *(байка — басня, баянне; ворогую — враждую; брязкало — бряцало).*

У слоўніку шырока прадстаўлены ўсе стылі: ад рэлігійных да свецкіх (навуковы, публіцыстычны і інш.), амаль усе пласты лексікі (ад бытавой да адцягненай). Рэестравыя словы ў «Сініме...» падаюцца ў строгім алфавітным парадку, ёсць выпадкі гнездавой сістэмы размяшчэння лексічных адзінак. У рэестравай, уласнабеларускай, частцы слоўніка прысутнічае пэўны элемент запазычанняў, фонамарфалагічная структура якіх пераўтворана ў адпаведнасці з мовай-успрымальніцай: *сакрамент — тайна; тестемент — завет; трафляюсь — ключаюсь, приключающе; трыбунал — судилище, судище; секретарь — тайник; силляба — слог.* Аднак, у адрозненне ад «Лексікона...» П. Бярынды, аўтар слоўніка пазбавіўся многіх незразумелых паланізмаў і іншых запазычанняў, замяніўшы іх мясцовымі лексічнымі адзінкамі.

Лексікаграфічная практыка аўтара «Сінонімы славенарoскай» сведчыць, што ў 16—17 ст. сфарміраваліся прасадычна-акцэнталагічная, фанетыкафаналагічная, марфолага-сінтаксічная сістэмы старабеларускай мовы, усталявалася яе артыкуляцыйная база, канчаткова акрэсліліся стылявыя ярусы.

Лексіконы 16—17 ст. пацвярджаюць думку даследчыкаў, што старабеларускай мовай карысталіся і на Беларусі, і ў Літве, і на Украіне, але, паводле Я. Ф. Карскага, незалежна ад тэрыторыі распаўсюджання яна ў значнай ступені захоўвала сваё стрыжнявое матэрыяльнае і структурнае адзінства.

Як і іншыя старабеларускія помнікі тых часоў, «Сіноніма...» яскрава сведчыць пра стан высокага росквіту беларускай літаратурнай мовы напярэдадні яе забароны польскім сеймам у 1696 годзе.

*Літ.:* Старабеларускія лексіконы: «Лексисъ съ толкованіемъ словенскіх мовъ просто», «Лексис...» Л. Зізанія, «Синонима славенороссская». Мн., 1992. (Са скарбніцы бел. культуры). *А. А. Яскевіч.*

## СІНТАКСІС

Сінтаксіс (ад грэч. syntaxis пабудова, парадак) — уласцівыя пэўнай мове спосабы аб'яднання форм слоў у словазлучэнні і сказы, а таксама простых сказаў у складаныя. Сінтаксісам называюць і навуку (раздзел граматыкі) аб адзінках маўлення, заканамернасцях іх утварэння і функцыяніравання.

Галоўным аб'ектам сінтаксічнага вывучэння з'яўляюцца працэсы і вынікі называння (намінацыі) сітуацый у мэтах зносін паміж людзьмі. Адрозненне лексічнай намінацыі ад намінацыі сінтаксічнай ў тым, што ў першым выпадку моўнымі сродкамі абазначаюцца факты рэчаіснасці, узятыя паасобку *(чалавек, незнаёмец, незнаёмы, стаяць, быць, варушыцца, нерухомы, нерухома),* а ў другім — тыя самыя факты адлюстроўваюцца як узаемазвязаныя элементы, што ўтвараюць пэўнае адзінства — пазамоўную сітуацыю *(Незнаёмы чалавек быў нерухомы; Незнаёмец стаяў нерухомы; Чалавек, што быў незнаёмы, не варушыўся* і г. д.). Відавочна, што, як бы многа ні было ў мове слоў (лексічных намінацый), камбінацый з гэтых слоў, сказаў (намінацый сінтаксічных) павінна быць незлічона болей. Таму ў сінтаксісе разглядаюцца не асобныя сказы, а іх класы (так званыя тыпы сказаў), а таксама класы слоў (часціны мовы), з якіх будуюцца сказы. Сінтаксіс, такім чынам, навука больш высокай ступені абстрагавання ад моўнай канкрэтыкі, чым лексікалогія і лексікаграфія, якія цікавяцца ў першую чаргу кожным канкрэтным словам.

Адрозненне паміж словам і сказам не толькі ў характары аб'екта намінацыі (факт — сітуацыя). Найважнейшай адрознівальнай рысай служыць уласцівая толькі сказу катэгорыя прэдыкатыўнасці. Сутнасць яе заключаецца ў перадачы моўнымі сродкамі адносін зместу паведамлення, заключанага ў сказе, да рэчаіснасці. Граматычнымі сродкамі выражэння прэдыкатыўнасці служаць катэгорыі часу, мадальнасці і асобы. Разам з інтанацыяй паведамлення прэдыкатыўнасць утварае найбольш істотныя прыкметы сказа.

Па ступені складанасці будовы паміж сказам і словам знаходзіцца словазлучэнне. Як і слова, яно не мае прэдыкатыўнасці і служыць сродкам намінацыі факта, але, падобна сказу, называе з'явы рэчаіснасці расчлянена, камбінацыяй слоў. Параўнайце: *прыезд Антося ў роднае сяло* і *Антось прыехаў у роднае сяло.* Калі ж камбінацыя слоў ці нават асобнае слова набываюць уласцівасць прэдыкатыўнасці, яны ператвараюцца ў сказ. Так, словазлучэнне *светлая ноч* і слова *зіма,* ужытыя ў маўленні з інтанацыяй сцверджання і значэннем рэальнасці, становяцца сказамі: *Зіма. Светлая ноч. Ускраіна лесу* (К. Крапіва). Зразумела, што такія прэдыкатыўныя адзінкі ўтвараюць асобны тып сказаў (намінатыўныя сказы).

У беларускім мовазнаўстве найчасцей разглядаюцца такія сінтаксічныя паняцці, як слова (словаформа), словазлучэнне, сінтаксічная сувязь, сказ і выказванне, члены сказа, прэдыкатыўнае ядро сказа, тыпы сказаў і г. д. Большасць гэтых паняццяў ахарактарызавана ў паасобных артыкулах Энцыклапедыі (гл. паказальнік). Такая сістэма сінтаксічных катэгорый адлюстроўвае вельмі даўні, традыцыйны для еўрапейскай лінгвістыкі падыход да моўных з'яў. Але ён даўно ўжо не з'яўляецца адзіна магчымым. Развіццё мовазнаўчай навукі, зварот даследчыкаў да такіх моў, што па сваёй будове значна адрозніваюцца ад індаеўрапейскіх моўных сістэм, іх імкненне як мага глыбей пранікнуць у сутнасць моўнай матэрыі, спазнаць законы сістэмнай арганізацыі рознаструктурных моў і маўленчай дзейнасці чалавека, сувязь мовазнаўства з іншымі навукамі і патрабаваннямі практыкі выкарыстання моў, сама мнагаграннасць мовы як аб'екта даследавання прывялі да таго, што сёння ў межах сінтаксічнага вучэння суіснуюць шматлікія канцэпцыі, шматлікія і разнастайныя «сінтаксісы»: членаў сказа і актантаў, таксанімічны і структуральны, функцыянальны і стылістычны і г. д.

Сярод шматлікіх разгалінаванняў сінтаксісу вылучаюць найбольш важныя і ў тэарэтычных адносінах, і для практыкі навучання мовам. Напрыклад, апісальны сінтаксіс займаецца вызначэннем уласцівай мове сукупнасці сінтаксічных структур — тыпаў словазлучэнняў і сказаў і іх агульных функцый і значэнняў. Сінтаксіс гістарычны даследуе фактары, шляхі і працэсы эвалюцыі сінтаксічнага ладу мовы. Дынамічны, або камунікацыйны, сінтаксіс вывучае, як суадносяцца сінтаксічныя структуры пры іх выкарыстанні ў маўленні, якія працэсы (перабудова рэгулярных сінтаксічных сувязей, выбар парадку слоў і інтанацыі, афармленне актуальнага члянення і г. д.) звязаны з пераўтварэннем сказа як адзінкі моўнай сістэмы ў адзінку маўлення — выказванне. Задача функцыянальнага

сінтаксісу — высвятленне ў першую чаргу функцыянальна-сінтаксічных уласцівасцей і магчымасцей моўных сродкаў, а таксама канкрэтных функцый тых або іншых адзінак (словаформ, словазлучэнняў, простых сказаў) у складаных сінтаксічных пабудовах. Іншымі словамі, функцыянальны сінтаксіс цікавіцца і тым, якія сінтаксічныя функцыі ўласцівы пэўнай адзінцы, і тым, якімі моўнымі адзінкамі можа быць рэалізавана пэўная сінтаксічная функцыя. Семантычны сінтаксіс вывучае пэўную частку агульнамоўнай семантыкі — тыя семантычныя катэгорыі, што вызначаюць граматычную (не індывідуальную) спалучальнасць слоў і выяўляюцца праз аналіз моўных структур. Паколькі функцыя моўнай адзінкі ў структуры сказа залежыць ад яе сінтаксічнай семантыкі, два апошнія кірункі сінтаксісу часта аб'ядноўваюць у адзін — функцыянальна-семантычны сінтаксіс.

Не толькі лінгвістычную, але і агульнафілалагічную значнасць маюць сінтаксіс тэксту, стылістычны сінтаксіс і аўтарскі (індывідуальны) сінтаксіс. Аб'ектам першага з'яўляецца тэкст як самастойная, найбольш складаная і змястоўная адзінка маўленчай дзейнасці чалавека, а прадметам вывучэння служаць правілы ўнутранай пабудовы тэксту, граматычныя сродкі спалучэння самастойных сказаў у звязнае адзінства, правілы адаптацыі, дапасавання сказа да кантэксту і сітуацыі маўлення. Стылістычны сінтаксіс займаецца вывучэннем сінанімічнасці сінтаксічных адзінак, заканамернасцей іх узаемазамен і здольнасцей служыць выяўленчым сродкам. Сінтаксіс мовы асобнага аўтара мае на мэце высветліць агульнае і адметнае ў пабудове выказванняў і тэкстаў пэўнай асобы (летапісца, пісьменніка, публіцыста, прамоўцы і г. д.), багацце і разнастайнасць моўных сродкаў асобы ў адносінах да сінтаксічных сродкаў мовы ў цэлым. Тры апошнія кірункі, а таксама сінтаксіс паэтычны (вывучэнне сінтаксічных фігур — параўнання, эпіфары, анафары, антытэзы і інш.) маюць вялікае значэнне для лінгвастылістычнага аналізу мастацкага твора.

З развіццём тэарэтычных поглядаў на прыроду сінтаксічных з'яў адпаведна відазмяняліся і ўзбагачаліся метады сінтаксічнага аналізу, што паступова прывяло нават да ўзнікнення новай галіны лінгвістычных ведаў — тэорыі метадаў лінгвістычнага аналізу. Метады гэтыя надзвычай разнастайныя. Да найбольш вядомых можна аднесці тыя, што далі назву асобнаму кірунку сінтаксічнага аналізу: дыстрыбутыўны, трансфармацыйны, непасрэдна складаючых, функцыянальна-семантычны (палевы), актантны, тагмемны, а таксама метады калькаснага, лагічнага аналізу і інш.

Сінтаксічны лад беларускай мовы мае ўласную сукупнасць адметных рысаў. Частка іх належыць усім або пераважнай большасці моў, другая — характарызуе мовы пэўнай сям'і або групы, а некаторыя рысы складаюць асаблівасць беларускай мовы і толькі яе — так званая нацыянальная сінтаксічная ідыяматыка. Сукупнасць такіх рысаў дазваляе даць тыпалагічную характарыстыку беларускага сінтаксісу. Пры гэтым галоўным, калі не адзіным, аб'ектам тыпалагічных супастаўленняў застаецца сказ як адзінка мовы і выказванне як адзінка маўлення, паколькі ў сказе (выказванні) адлюстроўваюцца, засяроджваюцца вынікі функцыяніравання ўсіх ніжэйшых узроўняў моўнай сістэмы, якія абслугоўваюць сінтаксіс — узровень, дзе мы пакідаем мову як сістэму і пераходзім да моўных зносін, да маўлення.

Члены сказа ў беларускай мове маюць прамую карэляцыю са знамянальнымі часцінамі мовы. Колькасць і сутнасць апошніх (назоўнік, дзеяслоў, прыметнік, прыслоўе, у пэўных адносінах — лічэбнік) вызначаюць сінтаксічную глыбіню асноўнай мадэлі беларускага сказа: *Студэнт → здаў → два → экзамены → цяжкія → вельмі.* Колькасць асобных пазіцый (у гэтым прыкладзе-схеме лінейна іх павялічыць нельга) падпарадкоўваецца агульнай заканамернасці пабудовы базавай мадэлі выказвання-паведамлення ў чалавечай мове: у ёй можа быць у межах $7\pm2$ элеметаў, што знаходзяцца ў адносінах паслядоўнай залежнасці адзін ад аднаго. Любы іншы, больш складаны від сінтаксічнага канструявання з'яўляецца ўскладненнем базавай мадэлі, разгалінаваннем яе асноўных пазіцый, пераўтварэннем (трансфармацыяй) розных словаспалучэнняў, што могуць замяшчаць гэтыя пазіцыі, далучэннем пазасказавых адзінак (зваротаў, пабочных канструкцый і г. д.).

Базавая мадэль беларускага сказа — гэта так званая актыўная канструкцыя. Яна ўтвараецца на аснове дзеяслоўных форм незалежнага стану, калі рэальны суб'ект дзеяння абазначаецца дзейнікам у назоўным склоне, а аб'ект — дапаўненнем у вінавальным склоне: *Селянін пасеяў жыта.* Гэтай сінтаксічнай пабудове проціпастаўляецца пасіўная канструкцыя: *Жыта пасеяна селянінам.* Наяўнасць актыўнай і пасіўнай канструкцый дазваляе аднесці беларускую мову да групы моў з наміматыўнай будовай сказа. Многія іншыя мовы (напрыклад, каўказскія, іранскія) будуюць асноўную мадэль сказа інакш — па эргатыўнай схеме, калі прамы аб'ект афармляецца абсалютным склонам, а суб'ект дзеяння — спецыяльным эргатыўным. Усё гэта вызначае адну з істотных тыпалагічных рысаў беларускай мовы і яе сінтаксісу.

Беларускаму сказу ўласцівы адносна свабодны парадак слоў. Гэта асаблівасць непасрэдна звязана з багаццем марфалагічнай сістэмы беларускай мовы. Флексія слова — члена сказа — замацоўвае за ім пэўную сінтаксічную функцыю і нясе асноўную інфармацыю аб ёй. Таму слова можа мяняць месца ў сказе, не змяняючы сінтаксічнай функцыі (параўнайце: *Брат пераслаў мне кнігу; Кнігу мне брат пераслаў; Мне пераслаў кнігу брат* і г. д.), але да таго моманту, пакуль не парушаецца лагічны змест паведамлення, яго сітуацыйная інварыянтнасць *(Я пераслаў кнігу брату; Маю кнігу пераслалі брату,*— тут зменены і марфалагічныя паказчыкі сінтаксічных функцый). Калі ж флексіі не прадвызначаюць сінтаксічных функцый адназначна, тады рэзка ўзрастае значэнне парадку слоў (параўнайце: *Карабель абстраляў бераг* і *Бераг абстраляў карабель*). У гэтым выпадку месца кожнага назоўніка ў сказе (калі часова не ўлічваць ролі інтанацыі) робіць яго то дзейнікам, то дапаўненнем. Гэта пацвярджае правільнасць агульнага палажэння: чым больш багатае ў мове словазмяненне (у прыватнасці, іменнае), тым больш свабодны парадак слоў у сказе, і наадварот.

Багацце словазмянення азначае, што асноўныя граматычныя значэнні, неабходныя для размеркавання сінтаксічных функцый і пабудовы сказа, перадаюцца сродкам самога слова, у яго межах, яго словаформай. Гэта служыць падставай для аднясення мовы да аднаго з двух тыпаў — пераважна сінтэтычных ці аналітычных. Беларуская мова адносіцца да першага тыпу.

Маючы адносна адвольны парадак слоў, беларуская мова зрабіла яго найважнейшым сродкам перадачы актуалізаванага значэння сказа (гл. **Актуальнае чляненне сказа**). Разам з інтанацыяй (уключаючы лагічны націск) парадак слоў забяспечвае перадачу розных па змесце паведамленняў адным і тым жа «наборам» марфалагічных сродкаў. Яшчэ адна істотная функцыя парадку слоў заключаецца ў тым, што ён разам з пранаміналізацыяй (заменай слова ці часткі сказа займеннікам), эліпсісам, спецыяльнымі лексіка-сінтаксічнымі адзінкамі (тыпу *аднак, таму, такім чынам, у выніку, нарэшце, па-першае* і пад.) служыць сродкам уключэння сказа ў тэкст, сродкам пабудовы тэксту.

Сказ у беларускай мове як адзінка моўнай сістэмы мае свае ўласныя формы, якія ў сукупнасці ўтвараюць яго сінтаксічную парадыгму. У значнай ступені яна вызначаецца марфалагічнай парадыгмай дзеяслова, але не зводзіцца да апошняй, бо ўключае ў свой склад і такія канструкцыі, дзе ўжываюцца транспанаваныя формы дзеяслова, якімі марфалогія не цікавіцца: ужыванне загаднага ладу ва ўмоўным значэнні, цяперашняга часу ў значэнні будучага або мінулага і

г. д. Так, сінтаксічная парадыгма базавай мадэлі «дзейнік — выказнік — прамое дапаўненне» можа мець прыкладна такую сукупнасць членаў: *Сонца саграе зямлю; Сонца сагравала зямлю; Сонца будзе саграваць зямлю; Сагрэла б сонца зямлю; Сагрэй, сонца, зямлю; Сагрэй сонца зямлю...* (з працягам накшталт: *...то ўсё ўжо б зазелянела*) і г. д. Сюды ж трэба аднесці і магчымыя варыянты (формы) пасіўнай канструкцыі: *Зямля саграецца сонцам; Зямля саграваліся сонцам* і г. д. Але тут мы ўжо фактычна пераходзім да іншага тыпу сінтаксічных парадыгмаў — трансфармацыйных. У склад апошніх могуць уваходзіць і сказы, і іх трансформы — словазлучэнні, як бы падрыхтаваныя для ўключэння ў іншыя сказы, напрыклад: *Сонца саграе зямлю; Зямля саграецца сонцам; Саграванне зямлі сонцам... Сагрэтая сонцам зямля... Зямля, што сагрэта сонцам... Сонца, якое саграе зямлю...* і г. д.

Працяглае гістарычнае развіццё беларускай мовы, узаемадзеянне розных (дыялектных, пісьмовых, жанравых) форм і традыцый далі ёй магчымасць выпрацаваць найбагацейшую, гнуткую сістэму сінтаксічных сродкаў, здольных абслугоўваць любыя запатрабаванні пазнання і мыслення. Найважнейшыя з іх такія: тыпы простых сказаў; сродкі паратаксісу і гіпатаксісу; сродкі пабудовы звышфразавых адзінстваў, уключаючы тэксты; пазасказавыя сродкі афармлення выказванняў; сінтаксічная сінаніміка і перыфрастыка; функцыянальна-сінтаксічныя палі; тыпы сінтаксічных зваротаў; сінтаксічная ідыяматыка; сродкі перадачы чужой мовы; сінтаксічныя фігуры; інтанацыя.

Тыпы простых сказаў вылучаюцца паводле мэты выказвання (паведамленне, пытанне, пабуджэнне) і паводле структуры сказа (сказы адна- і двухсастаўныя з іх падраздзяленнямі, няпоўныя і непадзельныя, развітыя і неразвітыя і г. д.). Да сродкаў паратаксісу і гіпатаксісу адносяцца разнастайныя злучнікі, інтанацыя, спосабы дапасавання часу дзеяння ў частках складаных сказаў і інш. Пазасказавыя сродкі афармлення выказвання — гэта звароткі, пабочныя і ўстаўныя канструкцыі, выклічнікі. Багатая і разгалінаваная ў беларускай мове сістэма сінтаксічнай сінанімікі. Гэта багацце выяўляецца таксама ў існаванні ў мове «перыфрастычных парадыгмаў»: адзін і той жа лагічны змест паведамлення можа быць перададзены лексічна рознымі спалучэннямі з адметнай стылістычнай канатацыяй. Напрыклад: *Над зямлёю раняла сонейка прамені* (Я. Колас) — *Сонейка саграва ла і асвятляла зямлю; Дзённае свяціла пасылала на нашу планету святло і цяпло; Сонейка давала цяпло агульнаму дому людзей* і г. д.

Адметнай асаблівасцю сінтаксічнага ладу мовы з'яўляецца існаванне так званых функцыянальна-сінтаксічных (або функцыянальна-семантычных) палёў. Асобнае поле ўтвараюць усе тыя рознаўзроўневыя сродкі мовы, якія служаць для перадачы агульнай паняційнай катэгорыі. Напрыклад, катэгорыя колькасці перадаецца сукупнасцю такіх сродкаў, як колькасныя назоўнікі *(тысяча, мільён)*, колькасныя прыслоўі *(многа, безліч)*, колькасныя займеннікі *(некалькі, усе)*, метафарычна ўжытыя назоўнікі са значэннем аб'ёму *(вядро, вагон, жменя, зграя)*, колькасныя прыметнікі *(першы, другі; вялікі, малы)*, лічэбнікі як спецыялізаваная лексічна аформленая граматычная катэгорыя *(два, сорак сем; утрая, дзевяцера, адна шостая)*, суфіксы *(трошачкі, малюпасенькі, пайвядзерца, жменечка)*, канчаткі адзіночнага і множнага ліку *(стол — сталы, новае паліто — новыя паліто)*, сінтаксічныя канструкцыі *(Людзей там — процьма; Грыбоў — табе і не ўявіць)* і г. д. Мова як бы дубліруе магчымасць выказваць пэўную ідэю з дапамогай розных сродкаў у залежнасці ад патрэб і мэты выказвання, намераў таго, хто гаворыць, стылю маўлення і зносін.

У структуру простага сказа могуць уваходзіць сінтаксічныя ўтварэнні, якія маюць адносную сэнсавую і інтанацыйную самастойнасць. Гэта сінтаксічныя звароты розных тыпаў: звароты з дзеяслоўнай асновай — дзеепрыметнікавыя, дзеепрыслоўныя і інфінітыўныя, звароты з недзеяслоўнай асновай — азначальныя, акалічнасныя і дапаўняльныя адасобленыя канструкцыі, звароты аддзеяслоўна-іменныя і параўнальныя. Усе яны займаюць прамежкавае становішча паміж дадзенымі членамі сказа і дадзенымі сказамі, напрыклад: *Нерухома стаяў густы амярцвелы лес, шчыльна прытуліўшы верхавіны да верхавін, пераплёўшы галіны, акрыўшыся белымі плямамі крохкай, шапаткой шэрані* (Я. Колас). Разнастайнасць і шырокая ўжывальнасць сінтаксічных зваротаў у беларускай мове — адна з яе адметных структурных прыкмет.

Нацыянальная мова — вынік шматвяковага развіцця, і таму яна паступова назапашвае спецыфічныя, толькі ёй уласцівыя звароты, канструкцыі, спалучэнні — сінтаксічную ідыяматыку. Яна стварае адметную рысу ў характарыстыцы сінтаксічнага ладу мовы, паколькі без яе моўная сістэма стане збедненай, пазбаўленай нацыянальна-этнічных прыкмет. Вядома, сінтаксічная ідыяматыка найбольш відавочная пры параўнанні сістэм далёкіх, рознаструктурных моў. Але ў гэтым плане адрозніваюцца нават і мовы роднасныя, сінтаксічныя мадэлі якіх у вялікай ступені супадаюць. Але поўнага супадзення не бывае. Ігнараванне ж нацыянальнай спецыфікі мовы і ў прыватнасці сінтаксічнай ідыяматыкі вядзе да калькавання, да разбурэння граматычнай і вобразнай сістэмы мовы народа як яго істотнай этнічнай характарыстыкі. Сінтаксічная ідыяматыка ахоплівае як свабодныя словазлучэнні, так і фразеалогію — граматычную і лексічную. Параўнайце, напрыклад, беларускае *ажаніцца з кім* з рускім *жениться на ком, смяяцца з каго — смеяться над кем, ярчэйшы за ўсіх — ярче всех, чатыры ў восем — четырежды восемь, сваім часам — в своё время, бярэцца на мароз — начинает морозить, пальцам не паварушыў — палец о палец не ударил, лухта — бред сивой кобылы* і г. д.

Сінтаксіс мовы непасрэдным чынам звязаны з іншымі бакамі моўнай структуры — яе гукавым ладам, марфемікай, словазмяненнем, працэсамі словаўтварэння, лексіка-семантычнай спалучальнасцю слоў, семантыкай. У агульным плане гэта сувязь заключаецца ў тым, што кожная з адзінак мовы адпаведнага ўзроўню выступае як будаўнічы матэрыял адзінкі больш высокага ўзроўню (фанема — марфема, марфема — словаформа, словаформа — член сказа, член сказа — сказ і выказванне). Адпаведным чынам суадносяцца і раздзелы вучэння аб гукавым і лексіка-граматычным ладзе мовы — фанетыка, марфалогія, лексікалогія, сінтаксіс і інш.

*Літ.:* Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Сінтаксіс. Мн., 1959; Граматыка беларускай мовы. Т. 2. Мн., 1966; Сизова И. А. Что такое синтаксис. М., 1966; Беларуская граматыка. Ч. 2. Мн., 1986.

*А. Я. Міхневіч.*

## СІНТАКСІЧНЫЯ НОРМЫ

Асаблівасць сінтаксічнага ўзроўню мовы заключаецца ў тым, што яго адзінкі непасрэдна звязаны з працэсам мыслення і працэсам моўных зносін. Таму на нарматыўнасць сінтаксічных адзінак уплываюць фактары не толькі ўнутрымоўныя (веданне сродкаў мовы — фанетыкі, марфалогіі, лексічнага і фразеалагічнага складу, сінтаксічных правіл, інтанацыйных схем і г. д.), але і знешнія, пазамоўныя (веданне і разуменне сітуацыі зносін, кантэксту маўлення, інтэлектуальны ўзровень і кругагляд тых, хто гаворыць, і пад.). У нарматыўнай ацэнцы сінтаксічнай канструкцыі спалучаюцца тры асноўныя моманты: правільнасць граматычнай будовы сказа; адпаведнасць выказвання законам мыслення, перадачы пэўнага сэнсу; камунікатыўна-стылістычная мэтазгоднасць адбору моўных сродкаў. Сукупнасць граматычнай правільнасці, сэнсавай дакладнасці і стылістычнай мэтазгоднасці і складае змест катэгорыі «сінтаксічная норма».

Як і ў іншых выпадках, нормы ў сінтаксісе становяцца асабліва відавоч-

ныя тады, калі яны парушаюцца. Так, граматычная правільнасць сказа *Я хачу падзякаваць вам за добрую параду* выразна выяўляецца пры параўнанні яго з няправільнай канструкцыяй *Я хачу падзякаваць вас за добрую параду;* сэнсавая нарматыўнасць выказвання *Шахцёры ўзнавілі работу* — на фоне сэнсавага парушэння (таўталогіі) у канструкцыі *Шахцёры зноў узнавілі работу;* а сінтактыка-стылістычная нарматыўнасць фразы *Міхаська ахвотна памагае на агародзе бабульцы* — пры супастаўленні з пабудовай *Міхаська ахвотна аказвае дапамогу на агародзе бабульцы.*

Паколькі сінтаксіс — гэта найвышэйшы ўзровень структуры мовы, з якога як бы пачынаецца пераход ад мовы як сістэмы да маўлення, памылкі папярэдніх узроўняў становяцца і памылкамі сінтаксісу. Так, у сказе *Ён праклаў свой след у беларускай лексікаграфіі* няправільна ўжыты фразеалагічны выраз (трэба або *пракласці шлях,* або *пакінуць след*), але фразеалагічная памылка выяўляецца ў жывым маўленні, яна становіцца памылкай і сінтаксічнай.

Вызначыць, правільна ці памылкова пабудаваны сказ (выказванне), можна толькі тады, калі параўноўваць варыянты яго слоўнага і граматычнага афармлення. Варыянты ж у мове, як вядома, узнікаюць па розных прычынах — пры сутыкненні новага і старога, дыялектнага і літаратурна-ўнармаванага, нацыянальнага і запазычанага, кніжнага і размоўнага, нейтральнага і стылёва афарбаванага, стандартнага і індывідуальна-аўтарскага, агульнаўжывальнага і функцыянальна абмежаванага і г. д. Таму пры вызначэнні нарматыўнасці канкрэтных сінтаксічных адзінак трэба ўлічваць шматаспектнасць сінтаксічнай нормы.

Трэба таксама памятаць, што варыятыўнасць сродкаў і спосабаў выражэння думкі ў сказе (выказванні) — уласцівасць любой развітой мовы, сведчанне яе зменлівасці, развіцця, багацця. У межах літаратурнай мовы варыятыўнасць патрабуе ўважлівых адносін. Нельга адносіць да памылак пэўную канструкцыю толькі таму, што побач з ёю існуе падобная «правільная». Пра гэта слушна пісаў у адным з сваіх артыкулаў К. Крапіва, абараняючы права на існаванне канструкцый з прыназоўнікамі *аб* і *к* побач са словазлучэннямі з прыназоўнікамі *пра* і *да*. Ён адзначаў, што *«пра яго пераход* наўрад ці лепш гучыць, чым *аб яго пераходзе»,* і лічыў непаразуменнем замену ва ўсіх выпадках прыназоўніка *к* прыназоўнікам *да* на той падставе, што канструкцыі з гэтымі прыназоўнікамі нібыта сінанімічныя, але прыназоўнік *к* не ўласцівы беларускай мове. На самай жа справе, заўважаў Кандрат Крапіва, гэты прыназоўнік таксама ўласцівы беларускай мове. Акрамя таго, у пэўных выпадках кожны з гэтых прыназоўнікаў надае словазлучэнню асаблівы сэнс. Напрыклад, *спячы пірог да свята* не тое самае, што *спячы пірог к святу.* Да свята можна спячы ды з'есці, а к святу — гэта значыць, што ў свята ён павінен быць на стале. Такое ж рознае значэнне маюць выразы: *скончыць працу к тэрміну* і *скончыць працу да тэрміну, галлё звісала к зямлі* і *галлё звісала да зямлі, прыйсці к абеду* і *прыйсці да абеду* і пад.

Сказанае не азначае, што не існуе **крытэрыя сінтаксічнай нарматыўнасці.** Найбольш выразна яго сфармуляваў больш за паўстагоддзя таму назад мовазнавец Л. П. Якубінскі. Адхіленнем ад нормы, а значыць і памылкай, пісаў ён, трэба лічыць толькі той «новы» варыянт, які не дае нічога новага па сэнсе. Сэнсавая ж «прыбаўка» можа мець самы розны характар. Таму ацэнка павінна быць узважанай, шматбаковай. Калі, напрыклад, давядзецца сустрэць сказ тыпу *Арэхаў многа, толькі яны не паспейшы,* то трэба ўлічыць, **хто** гаворыць або піша, з якой мэтай і г. д. Спалучэнне *арэхі не паспейшы* можа разглядацца як сінтаксічная памылка з пазіцый літаратурнага фармаўжывання (літаратурнае *арэхі не паспелі*). Але гэта самая канструкцыя не будзе памылкай, калі яна ўкладзена ў вусны героя літаратурнага твора, каб паказаць, што ён паходзіць з паўночнага захаду Беларусі і гаворыць на сваім дыялекце. Так, лексіка-сінтаксічныя «няправільнасці» з мовы герояў драматургічных твораў Я. Купалы, К. Крапівы, А. Макаёнка і іншых пісьменнікаў служаць своеасаблівым выяўленчым сродкам і дазваляюць стварыць моўную характарыстыку героя.

Але творчы бок мовы ў цэлым, канкрэтнасць маўленчых актаў не павінны хаваць ад нас і таго, што існуе нямала сінтаксічных варыянтаў, якія не толькі не нясуць новага сэнсу, дадатковай інфармацыі, а наадварот збядняюць, скажаюць тое, што чалавек хацеў выказаць. Гэта і ёсць сінтаксічныя памылкі. Яны настолькі разнастайныя, наколькі багатая і разгалінаваная сама падсістэма сінтаксічных сродкаў, умовы і мэты іх выкарыстання. Да найбольш тыповых граматычных недакладнасцей у галіне сінтаксісу трэба аднесці парушэнне заканамернасцей кіравання *(заклапочанасць над падзеямі* замест *заклапочанасць падзеямі* або *роздум над падзеямі)* і дапасавання *(дзве белых бярозы* замест *дзве белыя бярозы),* спалучэння аднародных членаў *(азнаёміцца і запомніць новыя словы,* трэба: *азнаёміцца з новымі словамі і запомніць іх),* парадку слоў *(куплены трактар Іванам Сярэдзічам* замест *трактар, куплены Іванам Сярэдзічам* або *куплены Іванам Сярэдзічам трактар),* ужывання дзеепрыслоўных зваротаў *(Ідучы дахаты, такія грыбы трапляліся!* Правільна: *Ідучы дахаты, мы знайшлі такія грыбы!* або *Калі мы ішлі дахаты, такія грыбы трапляліся!),* пабудовы складаных сказаў *(Гэта кіраўнік гуртка, які толькі вярнуўся з-за мяжы* — сказ двухсэнсоўны, паколькі няясна, да якога слова — *кіраўнік* ці *гурток* — адносіцца злучнікавае слова *які)* і падобныя.

*Літ.:* Сучасная беларуская мова: Пытанні культуры мовы. Мн., 1973; Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1980; Лепешаў І. Я. Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы. Мн., 1984; Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986; Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі. Мн., 1987. *А. Я. Міхневіч.*

## СІНТЭТЫЗМ І АНАЛІТЫЗМ

У мовазнаўстве тэрмінамі «сінтэтызм» (ад грэч. synthesis злучэнне, з'яднанне) і «аналітызм» (ад грэч. analysis раскладанне, расчляненне) абазначаюць істотную асаблівасць моўнай структуры: адны мовы перадаюць граматычныя і некаторыя іншыя значэнні з дапамогай марфем, уключаных у структуру слова (канчаткаў, прыставак, суфіксаў і г. д.); другія мовы выражаюць тыя ж значэнні адзінкамі, якія адасоблены ад слова (прыназоўнікамі, часціцамі, іншымі службовымі словамі). Напрыклад, беларускай і польскай сінтэтычным формам мінулага часу [*я*] *прыйшоў* і *przyszedłem* адпавядаюць аналітычныя формы нямецкая *ich bin gekommen* і французская *je suis venu.*

У залежнасці ад таго, якія формы пераважаюць, мовы падзяляюцца на сінтэтычныя і аналітычныя, а саму з'яву абазначаюць тэрмінамі «сінтэтызм» і «аналітызм». Так, беларускую мову звычайна адносяць да сінтэтычных, а, напрыклад, балгарскую — да аналітычных моў. Параўнайце беларускія і балгарскія адпаведнікі: *пераклад апавядานн-я — превод на расказ; стрэлка гадзіннік-а — стрелка от часовник; дух барацьб-ы — дух за борба.* Як бачым, у беларускай мове значэнні аб'ектнае, прыналежнае і якаснае перадаюцца канчаткамі роднага склону, а ў балгарскай, дзе склонаў няма, прыназоўнікамі.

Ні сінтэтызм, ні аналітызм не сустракаюцца як абсалютная якасць той ці іншай мовы. Таму больш правільна гаварыць не пра сінтэтычны або аналітычны лад пэўнай мовы, а разглядаць тыпы аналітычных структур, якія размяркоўваюцца ў кожнай канкрэтнай мове ў адпаведнасці са спецыфікай яе ладу.

Хоць беларуская мова адносіцца да тых, дзе пераважаюць сінтэтычныя формы скланення, спражэння, афіксацыі і падобныя, побач з сінтэтычнымі формамі тыпу *прачытаю, прыгажэйшы,* [*ісці*] *полем* у ёй шырока функ-

цыянiруюць i аналiтычныя: *буду чытаць, больш прыгожы, [iсцi] па полi.* Вылучаюць пяць аспектаў аналiтызму ў сучаснай беларускай мове: марфалагiчны, сiнтаксiчны, лексiчны, фразеалагiчны i лексiка-граматычны (або семантыка-сiнтаксiчны).

Найбольш тыповымi структурамi першага тыпу з'яўляюцца раздзельнааформленыя члены марфалагiчных парадыгмаў спражэння, скланення, ступеней параўнання i г. д.: *буду (будзеш, будзе...) чытаць, зрабiў быў, несла была, схадзiў быў, хай возьме, болей высокi, самы лепшы, менш цяжка.* Да гэтых прыкладаў можна дадаць i iншыя марфалагiчныя канструкцыi, напрыклад, спалучэннi прыназоўнiкаў з нескланяльнымi назоўнiкамi: [*пляма*] *на палiто* — месны склон, [*гузiк*] *ад палiто* — родны, [*увайшоў*] *з палiто* — творны. Аб склонавым значэннi назоўнiка ў такiх выпадках сiгналiзуе прыназоўнiк.

Сiнтаксiчны аналiтызм у беларускай мове назiраецца тады, калi значэннi асобных членаў сказа выражаюцца сiнтаксiчна непадзельнымi славазлучэннямi: *Хлопчык выпiў шклянку малака* (4 словы, але 3 члены сказа: дзейнiк, выказнiк i дапаўненне *шклянку малака*); *Стары быў высокага росту* (4 словы, 2 члены сказа: дзейнiк i выказнiк *быў высокага росту*).

З'яву лексiчнага аналiтызму ва ўсходнеславянскiм мовазнаўстве ахарактарызаваў яшчэ Ф. I. Буслаеў, калi звярнуў увагу на адзiнкi тыпу *думу думаць*, эквiвалентныя слову, але не фразеалагiчныя.

Фразеалагiчны аналiтызм (*даць дыхту, кату па пяту, легчы касцьмi, усiм сэрцам* i iнш.) даўно прыцягнуў увагу моваведаў i дастаткова падрабязна апiсаны.

Асобнай гаворкi заслугоўвае лексiка-граматычны (семантыка-сiнтаксiчны) тып аналiтызму. Да яго адносяцца такiя сiнтаксiчныя канструкцыi, у якiх адно i тое ж слова (або граматычная марфема ў складзе слова, або iншая адзiнка) выступае як у сваёй уласнай, першаснай функцыi, так i ў функцыi другаснай — у ролi ўскоснага паказчыка прыналежнасцi iншага слова да пэўнай семантыка-сiнтаксiчнай катэгорыi, да таго цi iншага лексiка-граматычнага класа слоў. Напрыклад, ёсць агульная заканамернасць свабоднага выбару лiку для дзейнiка: *Хлопчык прачнуўся — Хлопчыкi прачнулiся; Лес шумiць — Лясы шумяць.* Але ў сказе *Сёстры абнялiся* нельга выкарыстаць адзiночны лiк (*сястра абнялася* — сказ семантычна недапушчальны). Множны лiк мае ўласнае значэнне (функцыю), але разам з тым ён паказвае, што мы маем справу з дзеясловам адметным, адрозным ад знешне падобных (*прачнулiся, вярнулiся, спынiлiся* i iнш.). I сапраўды, слова *абняцца* не проста зваротны дзеяслоў, а дзеяслоў класа «ўзаемнае дзеянне», асобнага станавага значэння. Параўнайце яшчэ: *Дарогi разышлiся; Малыя пабiлiся; Суседкi пасварылiся.* Да аналiтычных такiя канструкцыi адносяцца таму, што паказчык станавага значэння ўзаемнасцi дзеяння знаходзiцца па-за дзеясловам. Амерыканскi мовавед Л. Блумфiльд трапна назваў такiя семантыка-сiнтаксiчныя сувязi слоў у сказе «перакрыжаванымi спасылкамi». У нашым прыкладзе: дзеяслоў спалучаецца толькi з множным суб'ектам, а абавязковы множны лiк дзейнiка-суб'екта паказвае на семантыка-сiнтаксiчную своеасаблiвасць дзеяслова. Вось iншыя прыклады лексiка-граматычнага (семантыка-сiнтаксiчнага) аналiтызму: *Дзецi часта хварэюць* (нельга сказаць *Дзецi часта захварэюць*, бо прыслоўе *часта* сваёй семантыкай прадвызначае выкарыстанне дзеяслова незакончанага трывання); *Мы iшлi лесам — Мы любавалiся лесам* (семантыка дзеясловаў, маючы ўласную значымасць, ускосна сведчыць пра граматычнае значэнне — акалiчнаснае або аб'ектнае — словаформы *лесам*).

Сукупнасць «перакрыжаваных спасылак», уласцiвая пэўнай мове, утварае з'яву, якая ў сучасным мовазнаўстве i атрымала назву «скрытай граматыкi». Раскрыць, вывучыць i апiсаць усе сродкi аналiтычнага канструявання, што выкарыстоўваюцца ў беларускай мове,— адна з актуальных задач сучаснай беларусiстыкi.

*Лiт.:* Аналитические конструкции в языках различных типов. М.; Л., 1965; Михневич А. Е. О типах аналитических структур в белорусском языке // Вопросы словообразования и номинативной деривации в славянских языках. Гродно, 1990.

*А. Я. Мiхневiч.*

## СIПАКОЎ ЯНКА



Янка (Iван Данiлавiч) Сiпакоў нарадзiўся 15 студзеня 1936 г. ў в. Зубрэвiчы Аршанскага раёна. Яго бацькi ў час вайны за сувязь з партызанамi былi закатаваны гестапаўцамi. Пасля вайны жыў у бацькавай сястры, рана пайшоў працаваць. Скончыў аддзяленне журналiстыкi БДУ (1960). Працаваў у часопiсе «Вожык» (1960—73). З 1973 г. ў часопiсе «Маладосць», з 1989 г. адказны сакратар гэтага выдання. З 1993 г. загадчык рэдакцыi лiтаратуры, мовы, фальклору i этнаграфii выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» iмя П. У. Броўкi.

Вершы Я. Сiпакоў пачаў пiсаць яшчэ ў школе. Адзiн з iх быў апублiкаваны ў 1953 г. ў аршанскай раённай газеце. Першы зборнiк паэта «Сонечны дождж» (1960). За кнiгу «Веча славянскiх балад» (1973) Дзяржаўная прэмiя Беларусi iмя Я. Купалы 1976 г. Аўтар зборнiка нарысаў «Па зялёную маланку» (1971), кнiг прозы «Крыло цiшынi» (1976), «Жанчына сярод мужчын» (1980), «Пяць струн» (1984), «Журба ў стылi рэтра» (1990) i iнш., зборнiкаў гумару. На беларускую мову пераклаў «Лiсце травы» (1978) У. Уiтмена, «Санеты смутку» (1987) Ф. Прэшэрна, паасобныя творы А. Пушкiна, А. Блока, Т. Шаўчэнкi, А. Мiцкевiча i iнш.

Паэтычны i празаiчны лексiкон Янкi Сiпакова незвычайна багаты. Словы будзённыя i рэдкiя, неалагiзмы i архаiзмы, лексiка прадметная i адцягненая, звычайная i словаўтваральна абноўленая — усё гэта спалучаецца ў арганiчна нацыянальныя славазвароты i сказы, утвараючы пругкую, шматколерную жывую тканку верша цi апавядання. Нават для слова канкрэтнага, прадметнага Я. Сiпакоў здольны адшукаць багаты сiнанiмiчны рад, напрыклад: *селянiн — араты, ратай, хлебасей, хлебадай, хлебароб, хлебажней, грэчкасей, кмет, чарнасашóнец, бязнiўны i бязлужны* i пад.

Здзiўляючае багацце сiнонiмаў — вельмi характэрная адзнака паэзii i прозы Я. Сiпакова, паказчык дакладнасцi i вобразнасцi, метафарычнасцi i ўзнёсласцi, неаднастайнасцi, шматфарбнасцi мовы яго твораў. Сiнонiмы даюць пiсьменнiку магчымасць, не паўтараючыся, называць безлiч прадметаў, з'яў рэчаiснасцi, прыкмет, якасцей, памагаюць характарызаваць людзей i прыроду, дазваляюць пазбягаць аднастайнасцi апiсанняў. Вось як, напрыклад, перадае аўтар значэнне, а дакладней — адценнi значэнняў дзеяслова *ехаць* у адпаведнасцi з канкрэтнай сiтуацыяй: *«Пiкапчык» застаўся ў снезе адзiн. I, нiбы назло яму, звычайны шэранькi «газiк» — ён моцны, у яго два масты вядучыя — смела* ***збочыў*** *сюды з вулiцы,* ***даехаў*** *да таго месца, дзе сядзеў «пiкапчык»,* ***звярнуў*** *убок, уцэла па гурбах* ***аб'ехаў*** *пакутнiка, зноў, лопаючы брызентавым верхам,* ***вырулiў*** *на дарогу i, як нiчога i не было,* ***пабег*** *далей* («Надвечар»); *Але Раёўшчыну, па якой не*

*трэба было нам* ***ехаць,*** *а толькі* ***пера-рыпець праз вуліцу,*** *і ўсё, мы* ***мінулі*** *спакойна. Нідзе не было відаць лесніка, калі мы па вымерзлай у лёд Вужыцы* ***пераязджалі*** *на свой бок. Цяпер да Сябрыні было ўжо зусім блізка — адно толькі* ***падняцца*** *з нізіны па раўку* («Крыло цішыні»). Героі ў яго творах не толькі *ідуць*, але і *тупаюць, тэпаюць, шлэпаюць, коцяцца, сунуцца, валюхаюцца, клыпаюць, шкандыбаюць, чыкільгаюць, соўгаюцца, снуюць* і г. д. А вось як гаворыць аўтар пра дрыжыкі: [*Ліда*] ***дрыжэла,*** *ёй* ***зябілася,*** *а ён, дзівак, усё спрабаваў сагрэць яе, думаючы, што* ***трасе*** *дзяўчыну* ***ад холаду...*** *І чым болей ён, ціскаючы і гладзячы, грэў яе,* ***тым больш*** *Ліду* ***калаціла*** («Развітанне з пісьмом»). Сінонімы памагаюць Я. Сіпакову свежа і прыгожа сказаць пра дрэвы, якія разрасліся на месцы былой хаты: *Пад адным колішнім акном, як і тады, цвіце* ***густа разрослая*** *шыпшына; пад другім —* ***вымахала ў высокае дрэва*** *таполька, якую прутком пасадзіў бацька; пасярод хацішча* ***ўзышла і развесялілася*** *сліва-самасейка — з буйнымі цёмна-сінімі і кісласалодкімі пладамі* («Усе мы з хат»).

Россыпы свежых слоў і слоўцаў з народнай гаворкі (у слоўніках літаратурнай мовы іх не знайсці) сустракае чытач і ў паэзіі, і ў прозе Я. Сіпакова. Гэта і назоўнікі: *гадок* 'аднагодак', *нядократка* 'недатыкальная дзяўчына', *наручча* 'бярэма', *свяжак* 'свежы вецер', *спазор* 'далягляд, гарызонт', *накольнік* 'неслух', *спагуда* 'няслава' (ад *гу́дзіць* — гаварыць дрэннае пра што-н.) і інш.; і прыметнікі: *астоеныя* (вочы, якія стаяць нерухома, як у мёртвага), *ясная падкова* (нагрэтая да белага), *невагомы* 'лёгкі, амаль без вагі' і г. д.; і дзеясловы: *чохнуць* 'лінуць вады на гарачае каменне', *утлумачыць, адскочыць* 'адарвацца' (пра гузікі), *наругацца* 'кпіць, дапякаць', *запанець, адраіць, паплямкаць* (губамі), *успароцца* 'устаць вельмі рана', *абабіць* 'абкасіць', *брыда́цца* 'саромецца', *канава́цца* 'таргавацца', *прысільваць* 'прымушаць сілаю', *вы́качацца* 'адчуняць ад хваробы', *ушпіліць* 'даць каню пугі', *пекануць* 'ударыць' і іншыя. Увядзенне ў кантэкст гэтых і падобных слоў узбагачае і разнастаіць аўтарскае маўленне, дыялогі і маналогі персанажаў, бо пераважная большасць гэтых лексем зразумелая ў кантэксце. Яны ажыўляюць мову пісьменніка, робяць яе хоць і не вельмі «правільнай», але неаднастайнай уносяць свежы струмень слова гаваркога, незацяганага, яркага, са сваім пахам і смакам.

Адмысловую стылёвую нагрузку нясуць у творах пісьменніка індывідуальна-аўтарскія ўтварэнні. Яго вынаходлівасць у моватворчасці — вельмі самабытная рыса аўтарскага стылю. Ён здольны так павярнуць слова, што з-пад пяра выблісне свежы вобраз — метафара, параўнанне, алюзія. Так і ўзнікаюць аўтарскія неалагізмы. Патрэба ў іх абумоўліваецца найчасцей імкненнем па-новаму перадаць рысу характару, абмаляваць сітуацыю, выказаць рух думкі, акрэсліць нюанс псіхалагічных паводзін героя. Так у слове, у яго абноўленай форме ўзнікае цікавая нечаканасць, якая сваёй эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкаю, навізною, нетрадыцыйнасцю прымушае чытача звярнуць на сябе ўвагу. З разраду такіх сіпакоўскіх нечаканасцей — ***зненавідная*** *(чарга на хлеб),* ***памірышча, самаволец, селькорыць, няёміцца, касьбар, астрашана*** (глядзець), пустазёл, ***лістагрывыя*** *(дрэвы),* ***су́міцца*** (ад *сум*) і многія іншыя.

А вось яшчэ прыклады, як жывой крыніцай віруе ўласная словатворчасць у паэзіі Я. Сіпакова: [*Тодар*] *Такую ўладу ўпэўнена* ***прыса́міў*** («Званні»); *За* ***рупню́*** *панам мы ўдзячны: // Нам памерці не даюць* («Кмет»); *Цяжкія* ***стомадні і стоманочы*** *// Матаюць кайданы ў клубок тугі* («Арыштант»); *Як жа хораша ўваліцца // Пасля* ***ўтомы ў лугакветкі*** («Як жа хораша ўваліцца»); *А дасягнеш — і ўсё* ***збудзённіць:*** *// Бы попел сей на вугалёк* («Чаго дамогся — не цікава»); *На табе — вясна віруе, // На табе — зіма* ***снягуе*** («Я люблю цябе да скону») і г. д.

Як вядома, самы пашыраны і ў мове гутарковай, і ў мове мастацкай прыём раскрыцця думкі — параўнанне. Дыяпазон параўнання вельмі шырокі. Гэта шырыня тычыцца і зместу іх, і граматычнага афармлення. Творам Я. Сіпакова ўласціва надзіва багатая фармальна-сэнсавая палітра параўнання. Вось прыклады з паэзіі: ***Раніца — як рана,*** *//* ***Поле — бы ў тумане*** («Грунвальд), *Што ж ты,* ***ноч, нібы чорная знічка,*** *// Прамільгнула ў вясёлай гульбе? // І ўжо* ***раніца — мыш-невялічка,*** *// Нібы шэрая мыш-невялічка // Скрытна точыць і точыць цябе* («Вяселле»); *Пазносіў снапы, мой ты добры муж, // З нашай* ***пасталі — што на жабін скок*** («Ростань»); ***Мы — аркестр рабоў.*** *// Мы цягнем* ***мелодыю*** *гэту, //* ***Даўгую — быццам дарога дадому,*** *//* ***Цяжкую — нібы бурлакам карабель на мелі,*** *//* ***Сумную — што нашы вочы*** («Лазня»); *Твае рукі,* ***твае рукі нада мною,— // Нібы лебедзі над белаю зімою*** («Песня»). У празаічных тэкстах: — *Што гэта ты, Таня,* ***высахла ўся — як цябе не палівалі ўсё роўна?*** («Знаёмыя жнівеньскія сны»); *Верасоўскі апусціў вочы долу і паціху,* ***асцярожна, нібы па мінным полі,*** *у повен рост ішоў па гэтай расе...* («Пыл пад нагамі»); *Вельмі цікава мне было глядзець, як* ***белым пушыстым сабачкам*** *у расчыненыя дзверы ўбягаў з сянец мароз...* («Акно, расчыненае ў зіму); [*Раніцу*] *нават мокры і ліпкі снег, які падаў* ***вялікімі, па лапцю, шматамі,*** *не рабіў святлейшай* («Жаночы вальс»); — *Ён* [*немец*] *жа, ты ж бачыш, такі* ***рахманы, хоць ты яго дой*** («Кульбы»); *Пушыстыя* ***плямкі*** [*сонца*] — ***акурат кацяняткі*** — *песціліся ўжо і на ложках, і на крэслах, і на ходніках...* («Гасцініца»); — *А зірніце, людцы добрыя,* ***хлопец жа ну выліты бацька*** («Трава ў расе»). Вельмі каларытныя разгорнутыя параўнанні-апісанні, напрыклад, у аповесці «Крыло цішыні»: *Цётка Еўка падобна на сваю хату — такая ж згорбленая і самотная. Ігнат Халадзёнак, калі глядзець на яго вочы, вельмі нагадвае пугача: вочы раскрыты шырока-шырока, не міргаюць і глядзяць на цябе, але нічога, здаецца, не бачаць перад сабою — усё праз цябе, за цябе, паўз цябе. А ў вачах ці то нейкі сум, ці то нейкая насцярожанасць, ці то падазронасць. А калі глядзець на Халадзёнкавы вушы — ну, выкапаны заяц. Вушы вялікія і доўгія — здаецца нават, вышэй галавы вытыркаюць, калі чалавек без шапкі. Ды і з-пад шапкі тырчаць з двух бакоў, як вушкі ў цэбры. А вось Рагатуны былі падобны на рэчы, якія меліся ў іхняй гаспадарцы. Сам дзядзька Грышка — невысокі, аднарукі, кругленькі, на кароценькіх нагах — вельмі ж ужо нагадваў гарлачык, якімі пазастаўляны ўсе паліцы, сталы, лаўкі ў хаце. У гэтых гарлачах было і малако, і бярозавік, і квас — нават самагонка стаяла часам у іх, накрытая якою-небудзь фанеркаю. Асабліва дзядзька Грышка быў падобен на гарлачык з ручкаю тады, калі ён у якой бяседзе, расчырванейшыся ад выпітай чаркі, упёршыся адзінаю рукою ў бок і ўзяўшыся ёю за шырокі салдацкі рэмень, круціўся пасярод хаты між танцораў, прытупваючы кароценькімі нагамі — акурат гарлачык на ганчарным крузе. Таму ў дзядзькі Грышкі акрамя мянушкі Рагатун была яшчэ і другая, не менш важная — Гарлач. Рагатуніха, цётка Прося, дужа нагадвала мне жорны. Такая надта ж круглая, падзеленая на дзве часткі чорнаю спадніцаю і сіняю кофтаю. Але, нягледзячы на сваю абоймасць, яна была рухаваю — тут ёсць, тут няма,— што здавалася часам, нібыта ў цёткі Просі не дзве, а, як у сапраўдных жорнах, цэлых чатыры нагі.*

Эпітэт — абавязковы ў паэзіі троп. Але не кожны прыметнік можа стаць эпітэтам. І паэт шукае — і знаходзіць найяскравейшыя паэтычныя азначэнні: ***няўлежная*** *ноч,* ***крутабокае*** *сонца, сонца* ***ўскотнае, ўскрылены*** *шар,* ***дымная*** *кроў,* ***няскораныя*** *слёзы,* ***злюднелы*** *пляц,* ***скачанелая*** *малітва,* ***ліпкія*** *спрэчкі* і інш.

Адна з найбольш прыдатных магчымасцей для паэта выявіць валоданне нацыянальным характарам мовы — гэта зваротак. Пад пяром майстра гэта сінтаксічная катэгорыя можаператварыцца ў яскравую мастацкую дэталь: *Не тужыце,* ***дабралюдзі:*** *// Я і тут вас бачу. // Як успомню гвалт*

*над вамі, // Дык і сам заплачу* («Арыштант»). Якая знаходка! Яна лёгка ўпісваецца ў стылёвы рад уласнабеларускіх зваротаў да мноства людзей: *Шаноўная грамада! Паважаны сход! Пачэснае людства! Мае дабралюдзі!* Наколькі гэта лепей, чым неалагізм-калька з польскай «спадарства» (паньства), хоць «спадар» — цудоўнае слоўца з вялікай традыцыяй. У паэта безліч формаў клічнага склону: *Бывай, мой* ***народзе!*** *// Жыві ты ж, багаты!* («Шыбеніца»); *Мая, мой* ***саколе,*** *свабода // У турка таксама ў руках* («Сакаляр»); *І ўсё ж са мною хадзем,* ***рыбача,*** *// Ты — прытуліся, я — абдыму* («Каханне»); *Што ж, бывай, мой* ***лесе,*** *// Родны, нібы хата* («Яношык») і інш.

Нярэдка паэт падпарадкоўвае мастацкай задуме адну з стылістычных фігур, а гэтай фігуры — суцэльную кампазіцыю верша. Прыкладам такой арганічнай еднасці паэтычнай задумы і паэтычнай, версіфікатарскай тэхнікі можа служыць балада «Свае» аб трагічнай сустрэчы дзяцей з маці, якая іх не пазнала. Аўтар выкарыстоўвае прыём так званай парцэляцыі (падзелу сказа на інтанацыйна адасобленыя члены-словы), і чытач амаль чуе стомленую хаду Евічкі і Тамаша: *Стаміліся... Доўгай... Дарогай... // Вечар... Як коршак... Напаў... //.......// Восень... І холад... І слота... // Дождж... Нібы коршак... Дзяўбе... //.............. // Ногі... Стамлёныя... Млеюць... // Ля зманлівых... Светлых... Акон... // Ля цёмных акон.*

Аналагічна будуецца балада «Рэха»: паўтор «пранізвае» ўвесь твор, не проста імітуючы рэха, а як бы ўзнаўляючы яго, перадаючы сам раскат гукаў: *Цёплы ранак, светлы ранак, звонкі ранак між ажын, // Разбудзілі нечакана, нечакана вы мяне. // Я ж схаваўся так далёка, так далёка ад сцяжын, // Што маё лагво і вецер, нават вецер абміне. // А над краем ціхі ранак, ціхі ранак, нібы звон, // Паўтарае, што ні скажаш, што ні скажаш сам сабе...*

Адна з характэрных для паэтычнай творчасці Я. Сіпакова стылістычных фігур — эліпсіс, які надае сказу выразнасць амаль канкрэтнага дзеяння: *Песня застольная, // Гульба, як жальба: // Увечары [дзяўчына на вяселлі] — вольная, // Раннем — раба* («Вяселле»); *І світку — з плеч* («Розгі»); *А мора — дыбкі, а вецер — валіць, // І я не бачу, куды плысці...* («Каханне»); *Хатулёк — такі цёпленькі! — у рукі // І да лесу — // Паспець бы да дня...* («Збуйніца»).

Паэзія патрабуе асаблівай дарэчнасці, прыдатнасці, трапнасці слова. У паэта-Сіпакова абвостранае пачуццё на яго. Таму, можа, гэта трапнасць словаўжывання нярэдка адліваецца ў афарыстычнасць цэлага выразу — сказа, радка, страфы. У вершах і прозе Я. Сіпакова такіх выразаў-афарызмаў — сур'ёзных, жартаўлівых, абагульняльных і іншых — нямала: *Можна паліць і святое, калі нам загад ёсць на тое* («Кантрабанда»); *Чорны боты — для работы, // Чырвоны да танца* («Песні»); *І які жалезу клопат, // Што ў мяне баліць душа!* («Кмет»); *Вісельня нягрэшных // Не прымае, кажуць* («Яношык»); *Не, няма цяжэй нічога // За слязу дзіцяці* («Арыштант»); *Хто праўду пасее, той волю пажне* («Шыбеніца»). З празаічных твораў: *Бываюць і такія хвіліны, калі лішкі дабрыні робяць нас як сляпымі; Пастаянна чалавек... не можа жыць у радасці...* («Усе мы з хат»); *Не могуць дрэвы жыць без карэння. Не могуць і людзі* («Акно, расчыненае ў зіму»); *Каса з расою гаварыць любіць* («Свята»); *Вялікія людзі часцей за ўсё дужа сціплыя* («Сяргей Сцяпанавіч»).

На высокім узроўні паэтычнага майстэрства знаходзіцца здольнасць паэта адчуваць, ацэньваць і скарыстоўваць чужое слова. Гэта асабліва добра відаць на матэрыяле перакладаў Я. Сіпакова і кнігі «Веча славянскіх балад». Побыт, характар, лад думак іншых народаў чытач адчувае і разумее глыбока і яскрава, бо яго вядзе гэта чужое слова, што стала неад'емным у беларускім вершы. *А на сталах бялеюць кабачкі, // Грувасцяцца цяжкія баклажаны. // А гэта — брынза, гэта — сыр жаданы, // А кветак пахкі акіян які! // Зеле — капуста, побач — дыні, мак — // Да гібелі ўсялякіх тут прысмак! // Кісело млеко, // Чэсен лук! // Моля, другару,— // Купляй, сябрук!* («Базары»). Так малюе паэт балгарскі базар. І чытач, здаецца, чуе нават, як ён пахне.

Уменне паэтычна гуляць са словам — сведчанне высокага таленту. Такі талент і такое ўменне — рыса і Янкі Сіпакова. Ён выдатна валодае тэхнікай радка, рыфмы, гукапісу. Часам здаецца, што ён чуе не толькі слова суцэльна, але і кожны яго склад, гук паасобку. І гэты вытанчаны і вясёлы паэтычны слых дае яму мажлівасць рабіць «вершаванае штукарства» і разам з тым заставацца у межах паэзіі. «У слове,— пісаў Я. Сіпакоў,— высвечваецца нешта такое, што пры здаровым і дужа лагічным поглядзе ніхто і ніколі не заўважыць. Яно паварочваецца да нас нібы знарок якойсьці невядомай, яшчэ нікім не адкрытаю гранню, якая, можа быць, таксама сведчыць пра бязмежнасць звычайнага слова» («Наталенне смагі»). І аўтар спрабуе гэту таемную грань, эўфанічныя здольнасці роднага слова паказаць чытачу: *Прысніў-//ся мне // звон дзіў-//ны ў сне. // Прыйшоў // я ў гай — // мой жой-//ты край. // Дзе звон // травы — // як брон-//завы...* («Мелодыя на званах»); *Я ў вясне // Стаяў, бы ў сне: // Спакусны ўзлёт // І вуснаў злёт. // І ціш вачэй // Паміж начэй...* («Было тады...»). Вось слова — і я гаспадар яму,— нібы кажа паэт, калі чытаем: *Знай, дужы вецер, абы не зла дзея,— // Знайду — жывеце, рабыня, у зладзея* («Рыфма пра каханне»). І таму становіцца зусім зразумела, чаму менавіта Янка Сіпакоў мог рызыкнуць узяцца за пераклад адмысловых радкоў В. Хлебнікава. Рускі паэт цудоўна загучаў на нашай мове: *У бязладдзі дзікім ценяў, // Дзе, як морак, дзень відзеней, // Нібы водгук дзіў старых // Закружылі, завінелі // У чародцы часары* («Там, дзе пелі амялушкі»). Або: *О, прысмейся адсмяяльна, смех насмейных смеячоў...* («Закляцце смехам»).

Субяседнікам лірычнага героя Я. Сіпакова нярэдка становіцца сусвет, прырода, жывёлы. Гэта адухаўленне навакольнага ўзнімае і маўленне аўтара. І тады сапраўды «чысцінёй святліцца слова» (так пачынаецца верш без назвы) і гучыць з нейкай спрадвечнай, язычніцкай сілай: *Гавары са мной, гавары, // Мой касцёр крутабокі, святлівы. // Аж да самай да цёмнай пары // Я з табой гаварыць шчаслівы* («Мой агонь пастарэў на год»); *Ах, мілы конь, ах, мілы косю, // Прабач за даўні здзек. Даруй* («Ай, мілы конь, ах, мілы косю...»); *Бог ураджаю, // Я цябе шукаю, // Я цябе запрашаю, // Я цябе малю — // Сыдзі на зямлю. // Зірні на ніву, // Зірні на колас: // Хай хмары грывы // Распусцяць наўкола. // Зямля просіць дажджу. // Чым я яе напалашчу?.. // Пашлі ты нам Лівуна, // Пашлі нам Церабуна, // Пашлі хоць Цурчана, // А нельга — дык хоць Каплюна, // А ў засушы нас не пакінь. // Амінь...* («Малітва прашчура»).

Цікавы і сінтаксіс пісьменніка. *Расхінаючы голле, адводзячы яго ўбок адною рукою — другая была занятая: раменьчык, які трымаў на плячы цяжкую модную сумку, парваўся і яе давялося ўзяць за ручкі,— ён паторкаўся сюды-туды па непраходным, нібы знарок сплеценым падлеску, перайшоў па зваленым кімсьці дрэве невялікі, але таксама дужа зарослы ручай — алешына ляжала тут, відаць, даўно, яна паспела ўжо абсохнуць, абшалушыцца і шупла спружыніла, і ён адно баяўся, каб хоць не пераламалася,— пацягаўся па малінніках, што, высокія і калючыя, да крыві абдзіралі рукі, чапляліся не толькі за штаны, але нават і за пінжак, паблукаў па сапраўдных зарасніках шыракалістага майніку, які, нягледзячы на дажджы, што, па ўсім відаць, не абыходзілі сёлета і гэты паўночна-яловы край, быў брудна-шэры і, патрывожаны чаравікамі, дужа пылій,— словам, чалавек кідаўся ва ўсе бакі, але, хоць і ведаў, што поле недзе блізка, ніяк не мог выйсці з кустоў.* Гэтым сказам-перыядам пачынаецца апавяданне Я. Сіпакова «Свята». Такіх разбудаваных сінтаксічных канструкцый у пісьменніка нямала. Па-майстэрску валодае Я. Сіпакоў магчымасцямі

ўскладненага сінтаксісу і ў паэзіі. Вось адзін з прыкладаў творчага выкарыстання перыяду — вывад, абагульненне папярэднічае ўздыму: [*О што вы, што вы, прайдзісветы!*] // *Не можа бедны быць зямля,* // *Дзе так буяе ў красках лета,* // *Дзе пахне цёпла так ралля,* // *Дзе вышаў воблакаў — вяршыні,* // *Дзе ў рэчках нашых столькі сіні.* // *Дзе сонца стоміцца, няйначай,* // *Пакуль завершыць свой абход,* // *Дзе людзі адначасна бачаць* // *І захад сонца, і усход* («Кукіш»). Перыяд гэты, як бачым, да таго ж яшчэ аздоблены анафарай.

Часты ў мове твораў Я. Сіпакова такі стылістычны прыём, як шматзлучнікавасць. Пры ім усе ці пераважная большасць аднародных членаў сказа звязаныя адным злучнікам, што павышае экспрэсіўнасць маўлення, мацуе ўзнёслы, узвышаны тон выказвання: *Юстына, як нешта жывое, роднае, абдымала вугал хаты — то гладзіла яго далонямі, то пачынала драпаць капцюрамі, то цёрлася шчокамі — аб шаршавыя, грубавата абрэзаныя звонку бёрны. Яна не адчувала, што ёй баліць, што паабдзірала ўжо ўвесь твар, што з ссадзін сочыцца кроў, а ўсё цёрлася і цёрлася і галасіла* («Кулак»); — *Ды і ў мяне самаго такога дабра... Куры не дзяўбуць! Ёсць што есці, ёсць што піць, ёсць дзе жыць — не ў турме ж сядзім — дык і дзякаваць богу* («Сцяпан і Рукавок»).

У прозе Я. Сіпакова важную ролю адыгрываюць прыметнікі і прыслоўі, патраенне, часам падваенне якіх — вельмі характэрная рыса рамантычнага стылю пісьменніка: *Гэта першае яе каханне было нейкае* ***калючае, дзікліваe, пужлівае,*** *і зараз Тамара разумее, што ў ім было болей, намнога болей, болю, чым радасці* («У гарадку, які называецца Учора»); *І яна паказала, як смяюцца —* ***хараша, весела, залівіста*** («Сівыя ў пілотках»); *А той лужок, напатканы ў кустах — такі* ***прыгожы, ціхі і нечапаны,*** *— таксама чакае яго;* Трава — ***пакалупаная, паклычаная*** і ***патаптаная*** *ўсюды, таму зараз нават здавалася, што той* ***чысценькі, роўненькі, як падстрыжаны,*** *лужок — усяго толькі дзіўны і неправдзівы сон* («Свята»).

Ці яшчэ не часцей патройваюцца і падвойваюцца ў апавяданнях і аповесцях Я. Сіпакова дзеясловы і назоўнікі, а таксама іншыя часціны мовы. Яны надаюць сказу пэўны рытм, самабытную музыку: *Ты зразумееш, як мне гэта было нялёгка, калі прызнаюся, што, нават калі скончылася вучоба ў інстытуце, я вельмі* ***перажывала, шкадавала, пакутавала:*** *гэта ж я не змагу яго зараз так часта бачыць...* («Жаночы вальс»); *З паляны ў гушчар уляцела — як яна толькі не зачапілася аб галлё крыллем — невялікая птушачка, і там нешта* ***заварушылася, зашабуршэла, запішчала:*** *відаць, недзе побач яе гняздо і ў ім зарадаваліся птушаняты, убачыўшы маці* («Развітанне з пісьмом»); *Піяніна зрабілася ёй* [*Валі*] *быццам бы* ***сяброўкаю,*** *быццам* ***сястрою,*** *быццам нейкаю* ***жывою душою,*** *з кім было хораша дружыць* («Саната»).

Стылістычную функцыю — апісаць героя, падкрэсліць яго маўленне — выконваюць дыялектызмы роднай Аршаншчыны, якія выкарыстоўваюцца аўтарам пераважна ў мове персанажаў (у мове яго самога яны даволі рэдкія): — *Авой-вой-вой!* ***Зазюкалася*** *я, Мікалайка, з табою, а там жа нас дзядулечка дайна* ***жджэць;*** *Бабуля, што мітусілася між імі, падказала: — А ты, можа, на плечы вазьмі.* ***Трэпкі нясі.*** *Няхай ён цябе за шыю* ***абніміць,*** *а ты яго пад ногі трымай* («Свята»): — *А я дзе захачу,* ***тама*** *сяду,* ***тама*** *і сядзець буду; А ў майго дзеда конь быў. Белы такі, гладкі,* ***адылі,*** *як лялька тая* («Акно, расчыненае ў зіму»); — *Ну і* ***мальцы,*** *ну і* ***мальцы*** *— агонь, а не* ***мальцы;*** *— У тым* ***бохаце*** *сам Кагадзей рыбу лавіў* («Усе мы з хат»); *Тут, у гарнізоне, без грошай, Андрэю заняцца няма чым, а проста так, астаўшыся,* ***басцяцца*** *аднаму па вуліцах між сосен яму не хацелася* («Сіротка»).

Выкарыстоўвае Я. Сіпакоў і такі спосаб перадачы чужога выказвання, як няўласна-простая мова. Ад простай мовы тут захоўваецца эмацыянальныя каларыт, зберагаецца непасрэднасць інтанацыі, сінтаксічная будова жывога маўлення. Гэты стылістычны прыём памагае пісьменніку перадаваць псіхалагічны стан персанажа, яго характар, натуру, падкрэсліваць абгрунтаванасць ці неабгрунтаванасць яго ўчынкаў, паводзінаў, перажыванняў. Вось як раздумвае-марыць Верасоўскі ў аповесці «Пыл пад нагамі»: *Цікава, што будзе рабіць жонка? Можа, яна будзе ў гэты час даіць карову. А можа, яны з Данілкам і другім дзіцем — во бацька, усё забываецца пра яго: раз не бачыў, дык яно і не ўпамках — будуць вячэраць. А можа, Лета якраз будзе класці дзяцей спаць. Во, мусіць, злякнецца, калі ён зойдзе ў хату. Не, злякнуцца-то яна не злякнецца, бо ўжо, відаць, прачытала ягонае пісьмо. Верасоўскі ўсміхнуўся, успомніўшы пра пісьмо: дзівак, напісаў абы-што.* Выдатны ўзор унутранага маналога — ім напісаны амаль увесь твор — аповесць «Кулак», дзе Ціт па дарозе на станцыю — выязджае ў Сібір — праз зварот да сябе, роздум-успамін дае ацэнкі, матывуе ўчынкі і паводзіны іншых: *Спярша Ціт і не думаў нікуды выбірацца са сваёй Кросніцы. Жыў сумленна, працаваў многа. Бацька, падзяліўшыся, крыху даў зямлі, а астатнюю сам, сваім гарбом зарабіў, за свае мазалі прыкупіў. Сорак дзве дзесяціны меў. Во гэтая зямля многім у вочы і калола. У жываглоты залічылі. Кулаком абазвалі. Ну няхай ужо я кулак. А то ж і Юзік Туміловіч — таксама кулак. Смехата! А бацюхны мае родныя, што ж гэта робіцца — а ў таго ж кулака толькі дзевяць дзесяцін зямелькі ўсяго. І хутар свой ён атрымаў толькі ў сталыпіншчыну. А яны ледзь што — кулачко. «Ну што, наелі пузы на чужым хлебе?» — «На чыім жа гэта — чужым?» — хочацца запытацца ў іх. Можа, на вашым? Ага, разяўляй рот шырэй — на вашым хлебе наясі пуза — з голаду памрэш. Можа, на Казябавым хлебе мы пасыцелі? А ў яго і хлеба нямаш. А хто вінаваты? Я? Ці, можа, Юзік Туміловіч? Піхума! Сам Казяба вінаваты. Рабіць нічога не ўмееиь ды і не хочыць. Вунацька хаты і то не накрыець. Стаіць расхрыстаная. А што, я яму хату крыць буду? На яго страху палезу? О, ён бы, стадыр малахольны, не адмовіўся, каб яму гэта нехта зрабіў. Стаяў бы, грыбы развесіўшы, ды яшчэ б і злаваўся, што не па-ягонаму крыеш. Свістуны! Прывыклі — рукі ў кішэні і свішчуць. Але калі толькі дзе якая заварушка пачнецца, дзе нешта дзяліць пачынаюць — яны тут як тут: дзе дзеляць, што дзеляць?.. Мы беднякі, мы батракі. А нам, а нам.*

Адна з асаблівасцей мовы Я. Сіпакова — назоўнікі жаночага роду з суфіксам *-ін*, якія абазначаюць адзін прадмет сярод яму падобных — расліну, плод, адзінку чаго-небудзь іншага, што ідзе, несумненна, ад спецыфікі роднай аўтару гаворкі: *слівіна, дуліна, агрэсціна, сунічына, ягадзіна, алешына, папяросіна, маснічына* і г. д.

Улюбёная форма ў творах Я. Сіпакова *як не* замест *амаль.* Ёю аўтар карыстаецца можа нават і залішне часта: *Андрэйка выбраўся на шлях і пайшоў, як не пабег, да Кабыляцкай гары* («Сіротка»); [*Павел*] *хацеў прысесці побач з Хілютам. Але той заняў як не ўсю лаўку* («Клопат»]; *Ні шпарка ісці, ні тым больш бегчы подбегам па сцежачцы было нельга, бо на ёй, выслізганай як не да бляску, кожны маленечкі каменьчык ці нават якое каліва засохлай зямлі балюча калоліся ў ногі* («Крыло цішыні»).

Ад роднай гаворкі ідуць у пісьменніка формы з прыстаўкамі *па-, папа-*:... *От гэтыя сабакаводы: параскормяць бедных сабак, што яны паробяцца такія тлустыя, як свінні: ідзе — бегчы ўжо не можа — і чэрава па снезе цягнецца; панашыюць, панавяжуць ім розных світэраў і безрукавак, пазакруцяць, пазашпільваюць іх, як дзяцей, у гэтае адзенне, дык сабакі не толькі брахаць, але і хадзіць паразвучваюцца* («Надвечар»); *Пакуль ён агледзеўся, дык пчолы і пазатохліся; Мужчыны, папавылезшы з кабін трактараў і машын, сабраліся разам і ажыўлена размаўлялі* («Свята»); — *Ляксеевіч, яны ж усе гароды папаламаюць. Усё папавынесуць* («Сцяпан і Рукавок»).

Нацыянальную спецыфіку мовы Я. Сіпакова ў многім выражае фразеалогія. З крынічных глыбіняў народнай

гаворкі з усім багаццем яе лексікі і фразеалогіі, безліччу выслоўяў гаварkіх, крамяных, трапных чуйна ловіць аўтарскі слых залаты перазвон народнага адмысловага слова. У яго апавяданнях і аповесцях, у вершах сапраўдны феерверк устойлівых народных выразаў. Ужываюцца яны найчасцей у мове персанажаў, карыстаецца імі пісьменнік і ў аўтарскім аповядзе. Нярэдка Я. Сіпакоў трансфармуе фразеалагізмы, дадае словы, пашырае ўстойлівыя зрашчэнні або перарабляе, сціскае фразу ў залежнасці ад мастацкай задачы: *Хілюта **ўліў** добрага **лягача** ягонай* [*Паўлюковай*] *карове, пасля чаго яна пачала хварэць* («Клопат»); *Ён* [*Шкраба*] *нас **прыбраў да рук*** («Сяргей Сцяпанавіч»); *Нават казалі, што аднаго разу сам Нупрэй камусьці жаліўся: «Ведаеш, як толькі я азавуся, дык яна **на хвасце становіцца, чортам глядзіць**...* («Крыло цішыні»); *А ў самога **па сабаку з рота валіцца*** («Усе мы з хат»); *Гаварыла яна* [*Тамара*] *так, каб **заблытаць сляды,** каб ніхто напэўна не ўведаў, не здагадаўся, што яна і праўда **па самыя вушы** была закахана ў Беленькага* («У гарадку, які называецца Учора»); *Хворы **ад слова** паслухаўся іх* [*дактароў*], *аддаў апошні пачак цыгарэт Веры Іванаўне...* («Белыя сцены»). Узоры фразеалагізмаў з твораў Я. Сіпакова можна прадаўжаць бясконца: *даць драпака* і сінанімічнае — *даць цёку, на развод, не да галавы, для адводу вачэй, зносу не будзе, як на сённяшняе вока, блізкі свет, дрыжыкі прадаваць, падысці з рукою* (павітацца за руку), *за «дзякуй», прыставаць з кароткімі гужамі, у свет як у капейку, у дажджу красці* і многія іншыя.

Слова ў моўных зносінах — гэта гатовая назва чаго-небудзь, за якой замацаваны пэўны змест. Але гэты самы змест можна перадаць і апісальна, з дапамогаю перыфразы. Перыфразы якраз і каштоўныя тым, што яны прымушаюць чытача дадумваць, уяўляць услед за аўтарам, разам з ім, падключацца да творчага працэсу. Так, нават пра такія сумныя рэчы, як смерць, пісьменнік можа сказаць з глыбокім паэтычным сумам і асаблівай шчымлівасцю і пранікнёнасцю. У аповесці «Крыло цішыні» смерць называецца *Кастуся з касою.* У аповесці «Усе мы з хат» могілкі — *мясціна, дзе пеўні не пяюць і людзі не ўстаюць.* Магіла з апавядання «Белыя сцены» — *горбік зямлі — апошняя і вечная хата.* Ядоха, персанаж «Крыла цішыні», замест таго, каб сказаць, што Таццяна злая, выказваецца вобразнай перыфразай: — *А нашто тваёй Таццянцы злая сучка? У яе ж і ў самой **у роце чорна*** (народнае павер'е: калі ў сабакі чорна ў роце, значыць ён злы).

Я. Сіпакоў заўсёды піша з веданнем усіх тонкасцей таго, пра што расказвае. Ён заваёўвае давер чытача не толькі псіхалагічнай глыбінёй, праўдзівасцю чалавечых характараў, калізій, сітуацый, не толькі шчырасцю аўтарскай інтанацыі, натуральнасцю жывога маўлення персанажаў, багаццем аўтарскай лексікі і фразеалогіі, гнуткасцю, натуральнасцю фразы, сінтаксісу, але і дарэчным выкарыстаннем спецыяльнай прафесійнай лексікі. Героі «Крыла цішыні» вязуць дровы. Іх насцігае ляснік. Па лёдзе ехаць, ды яшчэ пад горку, слізка, цяжка. Конь распрагаецца. Вось як дакладна выкарыстоўвае аўтар «вупражную» лексіку: *Я, нокаючы, нават не пачуў, як штосьці трэснула, і разабраўся толькі тады, калі на лёд, тонка задрынчаўшы, выцягнуўшы з **сядзёлкі церазсядзёлак,** зваліліся **аглоблі:** Шнэль распрогся. Відаць, спяшаючыся, я абы-як сціснуў **клешчы** і дрэнна звязаў **супоню** — на роўную дарогу гэтага хапіла, а зараз **хамут** рассупоніўся. **Дуга,** надламаная ў самым версе, трымала не вельмі моцна, таму паслабленыя **гужы** лёгка ссунуліся з аглабель, і Шнэль, з выглядам пераможцы, з дугою, што ляжала на хамуце, спяшаўся ўверх, а за ім, за **лейцамі,** як дурань, ішоў і я.* У гэтай жа аповесці, дзе расказваецца пра новую Дзямідзькаву пяцісценку, называецца ўвесь арсенал лексікі, звязанай з будаўніцтвам: *піла, сталюгі, дошкі, бервяно, кругляк, клін, шнур, адбіты вугалем на бервяне, пілавініна* і г. д.

Як сапраўдны каваль у аповесці «Пыл пад нагамі» апісвае аўтар, як Шкрэд перакоўвае каня. Тут сустрэнем усе неабходныя для такой аперацыі інструменты і начынне: *мяхі* і *горан, цвікі* і *вухналі, кусачкі, абцугі, клешчы, малаток, падкова.* А вось Шкрэд вуснамі аўтара выкладае яго, аўтара, веды пра конскія капыты:

— *А я, мальцы, конскія капыты як свае пяць пальцаў ведаю. Па адных капытах магу многае пра каня расказаць. Пра яго жыццё-быццё. Вось, скажам, у майго жарабка капыты мяккія. Значыць, ён доўга працаваў на вільготных глебах. А вільгаць, зразумела, капыты размякчае.*

— *А можа, гэта ад расы?* — *усумніўся Мюд.*

— *Ну, троху і ад расы,* — *нехаця згадзіўся Шкрэд, і было добра відаць, што Мюдава дасведчанасць яму не зусім спадабалася.*

— *А вось калі конь доўгі час стаіць на гнаі — капыты ў яго вялікія адрастаюць, робяцца мяккімі і абломваюцца. І калі каня трымаюць на сухой, цвёрдай падлозе —капыты тады зусім крохкімі робяцца, таксама ламаюцца.*

*Шкрэд устаў, узяў з зямлі драўляны нож для ачысткі капытоў і падышоў да каня. Падняў другую нагу і пачаў расчышчаць наступны капыт.*

— *На добры лад дык капыты не зашкодзіла б кожны дзень чысціць. Вунь колькі тут бруду. А бруд у баразёнках ля стрэлкі — вораг капыту. Бруд і вільгаць пад шчоткамі спрыяюць захворванню на макрэц.* Такой аўтарскай дасведчанасці, такім глыбокім спецыяльным ведам можна толькі падзівіцца, толькі па-добраму пазайздросціць.

Сярод нататак раздзела «Як птушкі ў лёце» ў кнізе «Журба ў стылі рэтра» (1990) знаходзім такі запіс Я. Сіпакова: «Не вялікая заслуга абразіць, пакрыўдзіць чалавека. Нават у літаратурным творы. Радуюся, што ў маёй творчасці нідзе не абражаны ніводзін чалавек» (С. 244—245). Гэта выказванне ўспамінаецца, калі прыгадваеш, што ў творах Я. Сіпакова, пісьменніка і чалавека інтэлігентнага, далікатнага, тонкай душы, рамантычнага, узнёслага, нават праклёны, што гучаць з вуснаў герояў, найчасцей незласлівыя, як бы несапраўдныя, сказаныя проста да слова: — ***А каб цябе, каб!*** *Гэта ж кубак, а я ўжо думала — пісямко мне нясуць,— расчаравана сумелася Прутніха і пайшла назад* («Усе мы з хат»); — ***А каб на цябе дождж!*** *Не смейся, я сур'ёзна кажу: Анісім канчаецца* («Пыл пад нагамі»); — ***А калі б на цябе дзень*** — *дык а як жа твае дзеці мяне яшчэ зваць будуць? Ведама, баба* («Слухай, сынок»).

У паэме У. Уітмена «Песня пра сябе», якую пераклаў Янка Сіпакоў, ёсць такія словы: «Мая мова, кожны атам мае крыві створаны з гэтай зямлі, з гэтага паветра». Гэтыя словы з поўным правам можна сказаць і пра самога перакладчыка, пра мову яго вершаў, балад, санетаў, апавяданняў і аповесцей, эсэ і нарысаў, прытчаў і мініяцюр, гумарэсак, артыкулаў, перакладаў. Кожнае іх слова, кожны гук, сказ, фраза, кожны сінтаксічны перыяд, прыказка, фразеалагізм — ад роднае беларускае зямлі, ад водару і гоману родных ніў, лясоў, пералескаў, жытнёвых палеткаў і мурожных сенажацяў, краса якіх з маленства ўваходзіла ў чулае на прыгажосць сэрца будучага пісьменніка, у яго эмацыянальную памяць, ад той шматгалосай, шматфарбнай, стазвоннай мовы, якая гучыць у вуснах землякоў, апрацавана майстрамі нашага пісьменства, у тым ліку і Я. Сіпаковым, якая цвіце ўсімі колерамі вясёлкі і ў паэтычных, і ў празаічных творах пісьменніка.

Ёсць простыя словы — ключы да жыцця. Умее гэтыя ключы адшукаць у моўна-паэтычнай скарбонцы нашага народа і Янка Сіпакоў: *Як прабабка мая казала: // — Жыта; // Як бабуля мая спявала: // — Жыццё; // Як мама мая ласкавела: // — Мова,— // Так і для мяне да скону — // Жыта; // Каб так і для сына майго — // Жыццё; // Каб так і для ўнука майго — // Мова... // Свая мова — // З веку ў век* («Як прабабка мая казала»).

*Літ.:* Лысенка А. Лінія гарызонта: Нарыс творчасці Я. Сіпакова. Мн., 1986.

*А. Я. Міхневіч, І. У. Саламевіч.*

Сістэмнасць любога складанага аб'екта грунтуецца на сувязях і адносінах паміж больш дробнымі яго часткамі, на пэўнай іх арганізацыі і ўпарадкаванасці. Чым складаней аб'ект і чым больш функцый ён выконвае, тым больш шматлікія і разнастайныя сувязі паміж яго часткамі.

Натуральная мова, бадай, самы складаны сістэмны аб'ект, таму што яна адлюстроўвае ўвесь навакольны свет, думкі чалавека пра яго, пачуццёвыя да яго адносіны. Акрамя таго, у мове існуюць свае ўласныя заканамернасці, сувязі, адносіны паміж яго адзінкамі, сукупнасць якіх утварае структуру мовы. Моўную сістэму складаюць самі адзінкі мовы разам з іх структурай. Для моўнай сістэмы найбольш характэрныя статычныя іерархічныя сувязі, што аб'ядноўваюць моўныя адзінкі з боку іх паступовага ўключэння ў больш складаныя адзінкі: гукі — склады — марфемы — словы — словазлучэнні — сказы.

Тыповыя для моўнай сістэмы дынамічныя сувязі, што забяспечваюць камбінаванне яе адзінак, бываюць двух разнавіднасцей. Парадыгматычныя сувязі ўзнікаюць паміж сукупнасцю аднародных адзінак, якія пры пабудове выказвання прэтэндуюць на адну і тую ж яго пазіцыю. Так, у выказванні *Вялікае прадпрыемства выпускае якасную прадукцыю* кожнае слова магло быць інакшым: *вялікае — буйное — агромністае — аграмаднае — велізарнае* і іншымі; *прадпрыемства — завод — фабрыка — камбінат — комплекс* і іншымі; *выпускае — вырабляе — робіць — дае* і г. д. Паміж гэтымі словамі-кандыдатамі ў адной і той жа пазіцыі існуюць парадыгматычныя сувязі, як і паміж астатнімі адзінкамі мовы, напрыклад, фанемамі, складамі, марфемамі. У логіцы адносіны такога тыпу называюцца дыз'юнкцыяй і будуюцца па формуле або/або. Сінтагматычнымі сувязямі аб'ядноўваюцца аднародныя моўныя адзінкі ў складзе іншых слоў больш буйных адзінак мовы: фанемы — у межах складоў ці марфем, марфемы — у межах слоў, словы — у межах словазлучэнняў ці сказаў. У логіцы сінтагматычныя адносіны называюцца кан'юнкцыяй і будуюцца па формуле і/і. Парадыгматычныя адносіны належаць да імпліцытных — скрытых, унутраных. Сінтагматычныя адносіны з'яўляюцца эксплiцытнымі — адкрытымі, знешнімі; яны прадстаўляюцца ў тэксце (ці маўленні) сумежнымі або спалучальнымі сувязямі паміж канкрэтнымі, рэалізаванымі ў тэксце адзінкамі мовы: *вялікае прадпрыемства, прадпрыемства выпускае, выпускае прадукцыю, якасную прадукцыю.* У межах слова *вы-пуск-а-ць* спалучаюцца (знаходзяцца паміж сабой у сінтагматычных адносінах) выдзеленыя ў ім сумежныя марфемы.

Натуральная мова лічыцца сістэмай сістэм. Яна аб'ядноўвае разнародныя адзінкі, якія ствараюць адносна замкнутыя падсістэмы. Так, фанетычная падсістэма мовы грунтуецца на вызначаных акустычных, артыкуляцыйных ці функцыянальных адносінах паміж гукамі мовы. Напрыклад, з артыкуляцыйнага пункту погляду галосныя гукі беларускай мовы сістэматызуюцца па радзе, пад'ёме і прыкмеце абагульненасці/неабагульненасці, а зычныя — па месцы і спосабе ўтварэння.

Адным з істотных спосабаў сістэмнай арганізацыі мовы служыць наяўнасць на ўсіх яе ўзроўнях адносін, ці проціпастаўленняў, якія ў значнай меры і характарызуюць вызначаную адзінку мовы менавіта як пэўны элемент сістэмы. Так, фанема *б* проціпастаўляецца фанеме *п* па прыкмеце звонкасць/глухасць, *фанеме б' — па* прыкмеце цвёрдасць/мяккасць, фанеме *в* — па прыкмеце выбуховасць/невыбуховасць, фанеме *м* — па прыкмеце неназальнасць/назальнасць. Дзякуючы гэтым проціпастаўленням і можна апісаць дадзеную адзінку як сукупнасць пэўных прыкмет. Для фанемы *б* гэта сукупнасць звонкасці, цвёрдасці, выбуховасці, неназальнасці. Такім чынам проціпастаўляюцца (сістэмна арганізуюцца) у мове граматычныя катэгорыі і адзінкі: лік, час, канкрэтнасць/абстрактнасць, адушаўлёнасць назоўнікаў і іншае. Сярод лексічных адзінак апазіцыйныя адносіны адзначаюцца паміж антонімамі.

Сістэматызацыя моўных адзінак у свядомасці чалавека і ў мове адбываецца і паводле падабенства тых ці іншых прыкмет гэтых адзінак. Так, у межах фанетычнай падсістэмы па прыкмеце змычнасці аб'ядноўваюцца ўсе зычныя гукі. У межах лексічнай сістэмы разнастайныя групоўкі слоў утвараюцца па прыкметах: семантычнага супадзення або падабенства (сінонімы); семантычнага падпарадкавання адных слоў іншым (пры гіпаніміі: *бяроза — дрэва, стол — мэбля*); адносін слоў да адной тэмы, калі яны ўтвараюць семантычныя палі (назвы жывёл, транспартных сродкаў, адзення); наяўнасці ў розных слоў аднолькавых марфем (пры супадзенні каранёвай марфемы словы аб'ядноўваюцца ў адну словаўтваральную групоўку).

У залежнасці ад віду сувязей адны і тыя моўныя адзінкі могуць ствараць розныя па сваёй структуры падсістэмы. Так, у адпаведнасці з прыкметамі і ўласцівасцямі, па якіх лексічныя адзінкі звязваюцца паміж сабой у разнастайныя групоўкі, складаюцца ідэаграфічныя, сінанімічныя, антанімічныя, словаўтваральныя, марфалагічныя, граматычныя, частотныя, паранімічныя і іншыя слоўнікі. У свядомасці чалавека лексічная сістэма існуе і функцыяніруе адначасова з улікам усіх якасцей слоў. Гэта праяўляецца ў асацыятыўных слоўніках, дзе ў межах аднаго артыкула аб'ядноўваюцца словы з рознымі па характары сувязямі. Дзякуючы пастаянным сувязям паміж моўнымі адзінкамі і сувязям часовым, што ўзнікаюць у канкрэтных выпадках у розных людзей, мова ўтварае гнуткую, шматгранную, дынамічную, саманастройвальную сістэму, дзе кожная адзінка па структуры з'яўляецца перакрыжаваннем шматлікіх і разнастайных яе адносін з іншымі адзінкамі.

*Літ.:* Клименко А. П. Лексическая системность и её психолингвистическое изучение. Мн., 1974; Щерба Л. В. Языковая система и речевая деятельность. Л., 1974; Клышка М. К. Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў. Мн., 1976; Солнцев В. М. Язык как системно-структурное образование. 2 изд. М., 1978; Соссюр Ф. Труды по языкознанию. М., 1977; Маковский М. М. Системность и асистемность в языке: Опыт исследования антиномий в лексике и семантике. М., 1980; Цітова А. І. Асацыятыўны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1981; Сидоров Е. В. Проблемы речевой системности. М., 1987.

*Б. А. Плотнікаў.*

## «СКАЗАННЕ ПРА СІВІЛУ-ПРАРОЧЫЦУ»

Помнік старажытнай беларускай перакладной літаратуры «Сказанне пра Сівілу-прарочыцу» змешчаны ў рукапісным зборніку 16 ст., які належаў бібліятэцы Красінскіх у Варшаве. Перакладзены з чэшскай мовы ў 15 — пач. 16 ст. Уключае матывы некалькіх асобных сказанняў: пра царыцу Саўскую (іншы раз яна атаясамліваецца з Сівілай — адной з вандроўных варажбітак у Старажытнай Грэцыі), пра яе знаёмства з біблейскім царом Саламонам (раздзелы 1—26), пра крыжовае дрэва (26—44), прароцтвы Сівілы пра нараджэнне і вучэнне Хрыста, пра пашырэнне хрысціянства ў сувязі з падзеннем іудзейства, пра ўзмацненне хрысціянства (44—87); пра тое, *какъ долго свѣтъ маеть стоıати;* прыкметы скончэння свету пасля 1400—71 гг. (87—224); пра з'яўленне Антыхрыста, другі прыход Хрыста і канец свету (224—260).

Мова помніка — старабеларуская, з адчувальнымі царкоўнаславянскім, польскім і чэшскім элементамі. Рукапіс напісаны буйным паўуставам 16 ст. У помніку ўжываюцца літары *р*, *н* для перадачы гука [н], *н* — гука [и]. Гук [о] у адпаведнасці з традыцыяй у пачатку слова перадаецца звычайна праз ω, у сярэдзіне і канцы — праз *о;* гук [у] у пачатку слова — праз *оу* (што для дзелавога пісьменства ўжо было нехарактэрна), у сярэдзіне і канцы — праз 8, зрэдку — праз *у*. Суст-

ракаецца і рэдкая ў помніках таго часу літара Ѫ, змяшэнне *ѣ* і *е*. Гук [з] часцей перадаецца літарай *з*, радзей — архаічнай для старабеларускага пісьменства літарай **Ꙁ** (зело). Пры перавазе традыцыйных напісанняў сустракаюцца і тыя, што адлюстроўваюць жывое беларускае вымаўленне: акання няма; на яканне ўказвае гіпернармалізм *верети:* перад зычнымі *в* звычайна пераходзіць у *у* [ў], няма пераходу *л* у *у* [ў]; ёсць цвёрдасць губных; заднеязычныя пераважна мяккія, але сустракаюцца і традыцыйныя напісанні з цвёрдымі *г*, *к*, *х*.

У граматыцы назіраецца суіснаванне архаічных рыс з навацыямі. Назоўнікі мужчынскага роду адзіночнага ліку ў давальным склоне маюць канчатак — *-ови/-еви* і *-ове* ў назоўным склоне множнага ліку *(дивове, грехове)* незалежна ад прыналежнасці да тыпу скланення. Назоўнікі жаночага роду адзіночнага ліку ў родным склоне маюць ранейшы канчатак *-е (з ноуже)*, у месным склоне адзіночнага ліку — ранейшы канчатак *-и* (адпавядае норме беларускай мовы на *зем'ли*). Назоўнікі мужчынскага роду множнага ліку ранейшы канчатак захоўваюць у давальным *(-омъ- дьло*$^{м}$*, по дьломъ)*, назоўным і вінавальным *(мор'дери а з'лодеи ховати)*, творным *(межи ереи, розлич'ными ѡбычаи, словы своими)*, месным *(въ днехъ, по лете*$^{х}$*, по и*$^{х}$ *прикладзе*$^{х}$*)* склонах. У помніку ўжываецца клічны склон *(сивил'ло)*, а таксама парны лік *(с'воима ѡчима видѣти)*.

Прыметнікі іменных форм ужываюцца ў прэдыкатыўнай і атрыбутыўнай функцыях *(хр*$^{с}$*тианъскꙋ, вѣрꙋ дръжати, ѡдеждꙋ болѧръскꙋ, живи боудоу*$^{т}$*, ѡбꙋви дивны)*, тыповы для старабеларускага пісьменства двухскладовы канчатак поўнай формы жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку *(ѡ*$^{т}$ *великое грозы)*.

Займеннікі ў тэкстах біблейскіх паданняў — гэта заканамерны царкоўнаславянскі *азъ*, пытальны — у ранейшай форме *что*, старабеларускі ўказальны *тотъ* (утвораны спалучэннем аднолькавых іменных форм), ужо ў той час архаічны ўказальны *кой*.

Лічэбнікі помніка архаічных форм з празрыстай структурай: *четырьдесаѧ*$^{т}$*, пѧ*$^{т}$*надесѧти, по четырьнадесѧтих*.

Дзеясловы ў 1-й асобе захоўваюць свае ранейшыя формы — *вемъ, вѣ*$^{м}$, у 3-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга і будучага часу — формы жывой мовы без *-ть (стане)*; перфект утвараецца пры дапамозе часціцы, якая захоўвае формы спражэння *(азъ есми оусмотрела, есми не вида*$^{л}$*, есми видѣла, еси працовала, сталъ сѧ есть дивъ, возрадовалсѧ есть)*, пад уплывам жывой мовы звязка можа адсутнічаць *(падѧковала, ѡ*$^{т}$ *повѣдила)*, умоўны лад можа ўтварацца пры дапамозе старажытнай часціцы *быхъ*.

Лексіка помніка разнастайная па паходжанні: агульнаславянская, беларуская *(ганьба, горший, дбати, доловъ, жедати, загинути, злодей, речъ, часъ)*, у біблейскіх сюжэтах ужываюцца царкоўнаславянізмы *(вѧще, изволити, мъзда, по*$^{з}$*движеніе, провидѣти оудоль)*, паланізмы і чэхізмы (трапілі пры перакладзе: *ачькол'векъ, во*$^{д}$*ле з'влаш'ти, з'влаш'тный, лꙋпежъ, ѡмедлети, папежій, п'сота, пыха, те*$^{ж}$*, оумѣнити)*.

*Літ.:* Карский Е. Ф. Западнорусское сказание о Сивилле-пророчице по рукописи XVI в. // Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962.

*У. М. Свяжынскі.*

## «СКАРБЫ МОВЫ»

Хто і як, калі і для якой мэты выткаў цудоўны дыван роднай мовы і чалавечай мовы наогул? Якія функцыі мовы ў грамадстве? Калі нашы продкі разышліся па розных славянскіх сцежках? Як узнікла беларуская мова? Ці вынаходзяць і сёння людзі новыя сродкі зносін? Адкуль узялося слова? На гэтыя і многія іншыя пытанні можна знайсці адказы ў кніжках серыі «Скарбы мовы», якая прысвечана праблемам агульнага, славянскага і беларускага мовазнаўства і ў 1982—92 гг. выходзіла ў выдавецтве «Народная асвета». Кнігі выдаваліся на беларускай і рускай мовах і прызначаліся найперш для вучняў старэйшых класаў, але іх з задавальненнем набывалі ўсе, хто цікавіцца праблемамі мовазнаўства. Кнігі ілюстраваныя. У іх змяшчаюцца і навуковая графічная інфармацыя (табліцы, схемы і інш.), і жартаўлівыя малюнкі.

Праблематыка серыі «Скарбы мовы» вельмі разнастайная. Пра гэта сведчаць самі назвы кніжак: «Апавяданні пра мову» В. М. Нікіцевіча (на рус. мове, 1982); «У глыбіню слова чалавечага: Навука пра мову і яе раздзелы» А. Я. Міхневіча (на рус. мове, 1982); «Культура слова» А. А. Каўруса (1983); «Мова нашых продкаў» А. І. Жураўскага (1983); «Слова Скарыны» У. М. Свяжынскага (1984); «Чаму мы так гаворым» / Склад. І. П. Шпадарук, В. В. Рудакоўскі, 1985); «Моўныя самацветы» І. Я. Лепешава (1985); «Славянскія мовы і славянскія народы» В. М. Украінцава (на рус. мове. 1985); «З моў блізкіх і далёкіх» А. М. Булыкі (1986); «Што такое лінгвагеаграфія» А. А. Крывіцкага (1986); «Сусвет у алфавітным парадку: Слоўнік — учора, сёння, заўтра» В. К. Шчэрбіна (на рус. мове, 1987); «Мова дружбы» Т. М. Валынец (на рус. мове, 1987); «Мова, якой няма...» А. Я. Міхневіча (на рус. мове, 1988); «Не так сабе слова мовіцца» Н. В. Фядотавай (на рус. мове, 1988); «Шчодрасць слова» М. Р. Прыгодзіча (1990); «Сугучнасць слоў жывых» М. А. Палкіна (на рус. мове, 1991); «Ад гука да літары» Л. Ц. Выгоннай (1991); «Размова пра псіхалінгвістыку» В. А. Маславай (на рус. мове, 1992).

Значэнне серыі кніжак «Скарбы мовы» ў тым, што яны задавальняюць цікаўнасць падлеткаў, у займальна-




Выданні серыі «Скарбы мовы».

папулярнай форме даюць моладзі навуковыя веды, фарміруюць навуковы светапогляд чытача, накіроўваюць яго пазнавальныя інтарэсы, прыцягваюць увагу да аднаго з вельмі істотных бакоў дзейнасці чалавека, абуджаюць цікавасць да гісторыі роднага краю і роднага слова. *А. Я. Міхневіч.*

## СКАРЫНА ФРАНЦЫСК



Беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, гуманіст, асветнік, вучоны, пісьменнік, перакладчык Францыск Скарына нарадзіўся каля 1490 г. ў Полацку. У Полацку і, відаць, у Вільні атрымаў першапачатковую адукацыю, авалодаў лацінскай мовай. Гэта яму дапамагло паступіць у 1504 г. ў Кракаўскі універсітэт, дзе, як і ў іншых тагачасных еўрапейскіх універсітэтах, выкладалі па-лацінску. У Кракаўскім універсітэце пашыраліся ў той час ідэі гуманізму, якія ў далейшым натхнілі Скарыну на асветніцкую дзейнасць для свайго народа. Па заканчэнні ў 1506 г. універсітэта Скарына атрымаў ступень магістра свабодных навук, да якіх тады адносілі граматыку, рыторыку, дыялектыку, арыфметыку, геаметрыю, астраномію і музыку. З 1507 да 1511 г. ў невядомай навуковай установе ён папаўняў свае веды па філасофіі і медыцыне і атрымаў ступень доктара філасофіі. У Падуанскім універсітэце ў 1512 г. Скарына атрымаў вучоную ступень доктара медыцыны. У выніку для асветнай работы, якой ён задумаў сябе прысвяціць, ён меў самае неабходнае — усебаковую адукацыю. Заручыўшыся матэрыяльнай падтрымкай багатага гараджаніна Багдана Онкава, Скарына едзе ў адзін з найбуйнейшых еўрапейскіх цэнтраў кнігадрукавання — чэшскі горад Прагу і адкрывае там друкарню. Тут у 1517—19 гг. Скарына выдае 23 кнігі Біблii, якую ён бачыў не толькі як кодэкс хрысціянскай маралі, але і як крыніцу разнастайных ведаў... «богу ко чти и людем посполитым к доброму научению».

Задума выдаць Біблію на зразумелай простым беларусам мове ўзнікла ў Скарыны пад уплывам новых павеваў у грамадскай думцы таго часу. Італьянскія гуманісты, а ўслед за імі галандскі філосаф і пісьменнік Эразм Ратэрдамскі выступалі за сінтэз гуманістычнага тлумачэння этыкі і ранняга хрысціянства, у якім гэта этыка адлюстроўвалася ў выглядзе легенды пра самаахвярны ўчынак Ісуса Хрыста ў імя свайго народа. Пастаўленая гуманістамі задача аднаўлення гэтай раннехрысціянскай этыкі магла быць, на іх думку, выканана толькі праз азнаямленне народа з першакрыніцамі хрысціянства — евангеллямі, якія ўяўляюць сабой жыццеапісанне Хрыста. Евангеллі былі напісаны на грэчаскай і старажытнаяўрэйскай мовах. Вынікам уплыву ідэй гуманізму і Рэфармацыі з'яўляецца і перакладчыцка-кнігавыдавецкая дзейнасць Скарыны. Пасля выдання кніг Старога запавету ў Празе Скарына вяртаецца ў Вільню, дзе адкрывае новую друкарню. Тут у 1522 г. ён выдаў «Малую падарожную кніжку». У 1525 г. выйшла ў свет другое віленскае выданне — «Апостал». У 1530 г. Скарына служыў у прускага герцага Альбрэхта, а прыблізна ў 1534—35 гг. зноў прыехаў у Прагу і на гэты раз паступіў на службу ў якасці садоўніка пры каралеўскім парку на Градчанах. Там жа, у Празе, каля 1541 г. Скарына памёр.

Паступовая дэмакратызацыя старабеларускага свецкага пісьменства, якая выяўлялася ў замене архаічных моўных элементаў суадноснымі элементамі жывой народнай мовы, пашыралася і на рэлігійную літаратуру на царкоўнаславянскай мове. Вынікам насычэння царкоўнаславянскай мовы на Беларусі элементамі жывой мовы было ўзнікненне асобага беларускага зводу царкоўнаславянскай мовы, адным з асноўных стваральнікаў якога і з'явіўся Ф. Скарына. Выданні Скарыны аказаліся насычанымі беларусізмамі ў такой ступені, што паміж вучонымі ўзніклі рознагалоссі адносна іх моўнай асновы. Адны з іх (П. Уладзіміраў, А. Будзіловіч, Я. Галавацкі, Ц. Ломцеў, М. Алексютовіч і інш.) лічылі яе беларускай, другія (С. Ліндэ, А. Сабалеўскі, А. Мартэль, А. Флароўскі, А. Жураўскі і інш.) — пераважна царкоўнаславянскай. Аб'ектыўны, комплексны падыход, выкарыстанне статыстычных метадаў пацвердзілі правільнасць вываду пра перавагу царкоўнаславянскай моўнай асновы скарынаўскіх выданняў. Арфаграфія выданняў пры перавазе традыцыйных правапісных прыёмаў характарызуецца пэўнымі асаблівасцямі, уласцівымі тагачаснай беларускай мове. У графіцы яшчэ даволі высокая ступень характэрнай для старажыт-



най кірыліцы дублетнасці літар: *е* — ѣ, *і* — *и*, *о* — ѡ, *оу* — *у* — ȣ, *іа* — ѧ, *з* — ꙁ, *ф* — ѳ, *кс* — ѯ, *пс* — ѱ. Прыкметна пашыраны пераход *в* у *ў* (*ȣсходу, ȣскорми, ȣ воде*), *у* у *ў* (*вбогии, взоры, вкоризна, вмерли*), пераход *я* ў *е*, пашыраны ў старабеларускім пісьменстве (*десеть, ечмень, заець, месець*), што можна разглядаць як ускоснае адлюстраванне якання. Як і ў старабеларускім пісьменстве, не знайшло прыкметнага адлюстравання дзеканне і цеканне, вельмі рэдка сустракаецца зацвярдзенне шыпячых і *р*.

У родным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду назоўнікі ў залежнасці не ад асновы, а ад прыналежнасці да пэўнага семантычнага разраду маюць канчатак *-а* або *-у*, што ў сучаснай беларускай мове стала нормай; параўнайце *града, покоя, потока* і *квасу, праху, туку, ячменю.* У давальным склоне пры перавазе традыцыйных форм з канчаткам *-у/-ю* (*востоку, дождю, духу, западу*) прыкметна пашыраны і новы канчатак *-ови/-еви* з асноў на *и* (*господеви, лекареви, отцеви, цареви*); таго ж паходжання канчатак *-ове/-еве* займае асноўнае месца ў назоўным склоне множнага ліку (*волотове, дедове, коневе, народове, отцеве*). У творным склоне пераважаюць ранейшыя формы, аднолькавыя з назоўным склонам (*со львы, над враги своими, скрипели зубы своими*), і на *-ми* (*еленми, князми, конми, людми*); у нязначнай ступені пашыраны формы на *-ами/-ями*, характэрныя раней толькі для жаночага роду (*грехами, лучами, мудрецами, рогами*). Асноўнае месца займае царкоўнаславянскі займеннік першай асобы адзіночнага ліку *азъ*, хоць прадстаўлены і ўсходнеславянскі *я*. Шырока ўжываецца ўказальны займеннік *сей*, які ў старабеларускім пісьменстве быў толькі прыкметай кніжнага стылю. Пытальна-адносныя займеннікі амаль выключна ў старых формах *кто, что*. Даволі поўна прадстаўлена сістэма склонавых форм кароткіх прыметнікаў (*землю имате нечисту, веселу быти, в столпе облачне*). Характэрным адрозненнем ад старабеларускага пісьменства з'яўляецца перавага ў родным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду форм з царкоўнаславянскім канчаткам *-аго/-яго* над формамі з усходнеславянскім канчаткам *-ого/-его* (*ветхаго, единаго, новаго, славнаго, убогаго* і *безумного, вечного, злого*). У назоўным склоне множнага ліку пры перавазе ранейшай сістэмы канчаткаў у залежнасці ад роду прыметніка (м. р. *-ии/-ыи*, ж. р. *-ие/-ые*, н. р. *-ая/-яя*) адчувальная тэндэнцыя да універсалізацыі першых двух.

У дзеясловах пераважаюць царкоўнаславянскія формы 2-й асобы цяпе-

рашняга часу з канчаткам *-ши (биеши, глаголеши, живеши, идеши)*, якія тагачаснай беларускай мове ўжо былі невядомыя: норме беларускай мовы адпавядалі і формы 3-й асобы адзіночнага ліку з канчаткам *-ть (береть, говорить, живеть, можеть)*; зрэдку адзначаюцца і формы без канцавога *-ть*, крыніцай якіх была жывая народная мова *(знайде, може, поймe)*. У 1-й асобе множнага ліку пераважаюць формы на *-мъ*, якія адпавядаюць норме большасці беларускіх гаворак *(будемъ, возмемъ, дадимъ, молимъ)*. Другое месца займаюць формы заходнеславянскага паходжання на *-мы*, якія маглі быць засвоены Скарынам або з польскіх крыніц, або ў польскамоўным асяроддзі ў час вучобы ў Кракаўскім універсітэце *(будемы, живемы, начнемы)*. Тагачаснае старабеларускае пісьменства магло быць крыніцай форм на *-мо (возмимо, молчимо, оставимо)*; як і ў беларускай мове, формы будучага складанага ўтвараюцца ў Скарыны пры дапамозе дзеяслова *быти*, што не было характэрна для царкоўнаславянскай мовы *(уповати буду, будеш боятися, стеречи будет)*. Пад уплывам беларускай мовы простыя формы прошлага часу аорыста *(быхъ, взяхъ, знойдохъ)* і імперфекта *(ведеахъ, делаахъ, знаахъ)* часта замяняюцца складанай формай - перфектам *(учинилъ есми, далъ есми, закопалъ есми)*. Звычайнай з'яўляецца форма даўнамінулага часу — плюсквамперфекта *(помазали есмо были, align="" рознемоглся есмъ былъ, явился естъ былъ)*. Формы ўмоўнага ладу ўтвараюцца пры дапамозе дзеяслова *быти*, якія ў адпаведнасці з нормай царкоўнаславянскай мовы захоўвае формы спражэння *(абыхъ имелъ мечъ, хотела бы помочи, яко быхомъ вязали снопы)*. Шырока выкарыстоўваюцца кніжныя кароткія і поўныя формы дзеепрыметнікаў незалежнага стану *(бия, веселяся, видя, злореча, зная, ведяй, моливыйся, оставый)*, пераважаюць формы інфінітываў на *-ти*, якія ў беларускім пісьменстве таго часу ўжо насілі кніжны характар *(бити, верити, гонити, жити)*. Новыя інфінітывы на *-ть*, што адпавядалі норме жывой беларускай мовы, сустракаюцца рэдка. Лексічны склад скарынаўскіх выданняў таксама пацвярджае думку аб іх царкоўнаславянскай моўнай аснове. Пераважае тут царкоўнаславянская лексічная стыхія: гэта найперш лексічныя царкоўнаславянізмы назоўнікі тыпу *бдение, бездна, воскресение, дщера, жезлъ, недугъ, отрок, скорбь, ужасъ, чело, щедрота* і інш.; дзеясловы *благославити, грясти, зрети, нарицатися, обрести, уповати* і інш.; прыметнікі *алчный, безумный, ветхий, убогий* і інш.; прыслоўі *вкупе, днесь, зело, присно* і інш. Адным з доказаў царкоўнаславянскай моўнай асновы выданняў Скарыны з'яўляецца колькасная перавага агульнаславянскай лексікі ў характэрным для царкоўнаславянскай мовы няпоўнагалосным афармленні: *блато, врагъ, гладъ, краткий, облакъ, страж, хранити, чрево* і інш. Нягледзячы на прыкметную пашыранасць беларускіх лексічных элементаў, іх колькасна менш, чым царкоўнаславянскіх: гэта перш за ўсё назоўнікі *ботъ, вежа, господаръ, дубець, згода, клопотъ, помста, праца, страва, шибеница* і інш., дзеясловы *гинути, дбати, жадати, засмутити, обецати, працовати, робити, ховати* і інш., прыметнікі *горший, збройный, лепший, пригожий, шаленый* і інш. Характэрную беларускую афарбоўку маюць поўнагалосныя формы, якія, праўда, складаюць толькі 5 % ад няпоўнагалосных: *берегъ, волотъ, голова, голодъ* і г. д. Спіс скарынаўскіх беларусізмаў значна папаўняецца за кошт рознага роду словаўтваральных беларусізмаў тыпу дзеясловаў з прыстаўкай *вы-*, што адпавядае царкоўнаславянскай *из-*: *выбавити, выбити,*




Тытульны ліст «Бібліі» Ф. Скарыны з кнігі «Быццё».

*выгнати, выкоренити, вылити, выпити, выпросити* і інш.; з прыстаўкай *роз-*, што адпавядае царкоўнаславянскай *раз-*: *розбити, роздати, розложити, розослати*. Вылучаецца значны пласт лексікі грэчаскага паходжання, пераважна з рэлігійнай сферы: *адъ, ангелъ, диакъ, епискупъ, еретикъ, идолъ, кивотъ, патриарх, псаломъ, херувимъ* і інш.; назвы месяцаў і дзён: *августъ, апрель, мартъ, февраль, субота* і інш.; назвы раслін, пладоў і прадуктаў: *кедръ, ладанъ, елей, манна, фимиамъ* і інш.; назвы жывёл, каштоўных камянёў, грашовых адзінак і г. д.: *китъ, мраморъ, оксамитъ, смарагдъ, стих, талант, астраномия* і інш. Нязначна прадстаўлены цюркізмы, асобныя з якіх былі звычайнымі і ў тагачаснай беларускай мове: *жемчугъ, коверъ, ковчегъ, кумиръ, серга, телега* і інш. Такога ж характару і нешматлікія германізмы накшталт *крюкъ, мастеръ, шапка*. Паколькі Скарына пры падрыхтоўцы сваіх выданняў арыентаваўся пераважна на беларускае праваслаўнае насельніцтва, у яго выданнях нязначна прадстаўлены лацінізмы, звычайныя ў каталіцкіх выданнях: *буйволъ, олей, олтарь, пардусъ*. У пражскіх выданнях, у выніку спецыфікі ўмоў іх падрыхтоўкі, адзначаецца прыкметны пласт запазычанняў з чэшскай мовы, многія з якіх старабеларускай мове невядомы: *змизати* 'знікнуць', *занепразнити* 'заняць', *либивость* 'прыгажосць'.

Захаванне Скарынам традыцыйнай у заходнеславянскім свеце царкоўнаславянскай мовы Біблііі тлумачыцца тым, што простым вернікам-беларусам царкоўнаславянская мова была ў значнай ступені зразумелай, а таксама супярэчлівасцю светапогляду Скарыны, у якім прагрэсіўныя рэнесансна-гуманістычныя і рэфармацыйныя элементы сінкрэтызаваліся з кансерватыўнымі сярэдневяковымі. Усё ж беспрэцэдэнтны па смеласці ў гісторыі беларускай культуры крок Скарыны на шырокае ўвядзенне ў сакральную мову народных элементаў адыграў вялікую ролю ў гісторыі беларускай мовы. У 2-й палове 16 ст., у разгар рэфармацыйнага руху на Беларусі, у славутага палачаніна знайшліся паслядоўнікі ў асобе Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага, якія фактычна давялі яго справу да канца, даўшы свайму народу рэлігійныя кнігі на тагачаснай беларускай мове.

*Літ.:* Булыка А. М., Жураўскі А. І., Свяжынскі У. М. Мова выданняў Францыска Скарыны. Мн., 1990; Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст. Мн., 1988.

*У. М. Свяжынскі.*

Прємудрость Божиꙗ




РЕМѸДРОСТИ БОЖЇЕЙ КНИГА ПО
ЧИНАЕТСѦ · ЗѸПОЛНЕ ВЫЛОЖЕНА
НА РѸСКЫЙ ЯЗЫКЪ · ДОКТОРОМЪ
ФРАНЪЦИСКОМЪ СКОРИНИНЫМЪ СЫ
НОМЪ · ИЗЪСЛАВНАГО ГРАДА ПОЛОЦЬКА

Ф. Скарына. «Прамудрасць божая» (тытульны ліст).

## СКЛАД

Складам называецца частка слова, утвораная галосным гукам або яго спалучэннем з зычнымі на аснове злітнага з імі вымаўлення *(чытаць па складах)*. У залежнасці ад розных тэарэтычных прынцыпаў складападзелу (гл. **Складападзел**) існуе некалькі тэорый будовы склада.

У беларускай мове складаўтваральныя галосныя *а, э, о, у, і, ы* з адным *(гэ, ра)*, двума *(збы, цаў)*, трыма *(стра, сква, клас)*, чатырма *(гвалт, пстры)* і большай колькасцю зычных, часам толькі галоснымі (акрамя *ы*): *у-бок, а-сабліва, і-мя*. Паўгалосныя *й, ў* склад не ўтвараюць. Колькасць складоў лёгка вызначаецца на слых, бывае ад аднаго да шасці і болей у слове: *дах, рой, бо; па — па—ра—дка—ва—цца*.

Паводле закона Цыпфа ў вуснай мове часцей ужываюцца больш кароткія па колькасці складоў словы. У беларускай мове больш адна- і двухскладовых слоў, падобна дзіцячай мове: спачатку ў ёй з'яўляюцца менавіта такія словы *(дай, бух, мама)* і толькі затым шматскладовыя.

Якасць вымаўлення складоў залежыць ад іх колькасці ў слове. Больш кароткімі па гучанні атрымліваюцца склады шматскладовага слова ў параўнанні з аднаскладовым.

У залежнасці ад націску ў слове склады бываюць ненаціскныя і націскныя. Націскны склад вымаўляецца больш выразна і напружана нават на фоне шуму, аднак сіла, працяглaсць, вышыня тону гучання не заўсёды мацней і даўжэй за ненаціскны. Да ненаціскных складоў адносяцца пераднаціскныя (***па-ляў-нічымі***) і паслянаціскныя (***паляўні-чы-мі***) склады. Склад, які мяжуе з націскным,— першы пераднаціскны (***зака-ла-сіц-ца***), з першым — другі пераднаціскны (***за-ка-ласіцца***), з другім — трэці (***за-каласіцца***). Пасля націскнога ідзе першы паслянаціскны склад (***вы-ця-гнуты***), затым — другі паслянаціскны (***выця-гну-ты***), трэці (***выцягну-ты***) і г. д. У слове з пяццю і болей складамі з націскам на першым складзе ўзнікае пабочны націск на перадапошнім складзе (***вы-па-тра-ша-нă-му, вы-ра-та-ва-ны-мі***).

Ад месца склада ў слове залежыць іх падзел на пачатковыя і непачатковыя (***ка-ва-лак***), канцавыя і неканцавыя (***кло-па-ты***). Для пачатковага склада характэрны большыя гучнасць і разнастайнасць спалучэння зычных, для канцавога — меншая выразнасць вымаўлення. Памылковае ўспрыманне на слых пачатковых складоў тоеснае зыходнаму слову па акцэнтна-рытмічнай структуры (***замоўклі*** замест ***узмоклі***) і мае семантычны, а не фанетычны характар. Пры памылковым успрыманні канцавых складоў, наадварот, слухач менавіта фанетычна замяняе іх на блізкія па гучанні (***узмокне*** замест ***узмоклі***).

У залежнасці ад месца галоснага бываюць адкрытыя і закрытыя, непрыкрытыя і прыкрытыя склады. У адкрытым галосны размешчаны на канцы (***два, мы***), у закрытым—на канцы зычны (***дах, рой***). Непрыкрыты склад пачынаецца з галоснага (***ад, эх***), прыкрыты — з зычнага (***вугал, ва-вёр-ка***). Адкрытыя і закрытыя склады могуць быць прыкрытымі (***мы, дах***) і непрыкрытымі (***а, іл***). Адкрытымі непрыкрытымі могуць быць толькі склады, утвораныя адным галосным, найбольшая ж колькасць тыпаў — складоў прыкрытых. У беларускай мове (у параўнанні з рускай) больш адкрытых і менш непрыкрытых складоў.

Па артыкуляцыйна-акустычных характарыстыках зычныя і галосныя склада могуць быць больш ці менш кантрастнымі. Чым больш яны кантрастныя па артыкуляцыі, тым больш цяжкае вымаўленне склада. Аднак гэта спрыяе лепшай дыферэнцыяцыі на слых зычнага і галоснага гукаў, тады ўспрыманне склада аблягчаецца.

Межы паміж складамі вызначае складападзел.

Колькасцю складоў, вымаўленых за адзінку часу (секунду, мінуту), вымяраецца тэмп маўлення. Сярэдні тэмп маўлення на беларускай мове — 3 склады ў секунду. Вымярэнне яго прыборамі ці на слых няцяжкае. Здольнасць ацэньваць тэмп вуснай мовы на слых сведчыць пра ўменне чалавека сегментаваць моўную хвалю на склады без удакладнення межаў паміж імі. Таму мова становіцца членараздзельнай і адрозніваецца ад гукаў іншай прыроды.

Пры развіцці дзіцячай мовы спалучэнні гукаў тыпу складоў з'яўляюцца на этапе лепету. Затым шляхам двухразовага паўтору аднаго і таго ж склада: *ма-ма, ба-ба, та-та*, з дзяленнем на націскныя (звычайна першыя) і ненаціскныя. З іх утвараецца шмат першых слоў дзіцяці.

У сілаба-танічным вершаскладанні чаргаванне націскных і ненаціскных складоў вызначае метр або памер верша. У вакальнай мове (спевах), наадварот, націскныя і ненаціскныя склады страчваюць рысы адрознення. Тут усе склады ў пэўным сэнсе як бы націскныя, а кожнаму складу ў адпаведнасць ставіцца асобная нота, якою задаецца вышыня і працяглaсць вакалізацыі склада.

Скандзіраванне — рытмічнае расчляненне маўлення, форма гаворкі, калі ўсе запар склады ў фразе вымаўляюцца паасобку і з націскам (*бра́-ва́ Са́-ша́! Го́р-ка́-го́р-ка́!*),— сустракаецца і пры паталогіі мовы ў дзяцей. Складовая структура маўлення парушаецца часам пры заіканні (*во-во-во-возера*).

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985. *Г. В. Лосік.*

## СКЛАДАНАЕ СІНТАКСІЧНАЕ ЦЭЛАЕ

Складанае сінтаксічнае цэлае — гэта полікамунікатыўная сінтаксічная адзінка, якая арганізавана з двух ці больш самастойных сказаў (простых або складаных), аб'яднаных адпаведнымі сродкамі сувязі і па сэнсе. Іншы раз яе называюць звышфразным ці звышсказавым адзінствам. Яна мае закрытую расчлянёную структуру, арганізуецца больш-менш незалежна ад кантэксту і здольная выражаць закончаную думку інфарматара. Структурным ядром складанага сінтаксічнага цэлага з'яўляецца першы, стрыжнёвы сказ: звычайна ён будуецца свабодна, завершаны граматычна, не змяшчае ніякіх фармальных адзнак, якія паказвалі б на неабходнасць прымацавання да яго новых сказаў. Але гэты сказ інфарматыўна недастатковы, паколькі аформленая ім думка поўнасцю не завершана і патрабуе далейшага развіцця і ўдакладнення. А гэта дасягаецца толькі прымацаваннем да яго другога, новага сказа, які будуецца не свабодна, а заўсёды ўзгадняе сваю структуру са стрыжнёвым сказам. Так, у складаным сінтаксічным цэлым *Усе лугі радуюць вочы. Але асабліва вабяць мурожныя лугі каля ракі. У іх трава пахне мёдам* (Б. Мікуліч) асобныя сказы аб'яднаны агульнасцю семантычнага значэння і інтанацыйнага афармлення, адзінствам мадальнага плана, пэўнымі суадносінамі трывальна-часавых форм і іншымі сродкамі. Першы сказ тут з'яўляецца зачынам, ім пададзена асноўная тэма паведамлення, якая раскрываецца ў размешчаных за ім двух сказах. Прызначэнне другога сказа — перадаваць супрацiўна-вылучальныя адносіны (сувязь рэалізуецца спалучэннем злучніка *але* з часціцай *асабліва*, якая канкрэтызуе яго значэнне). Трэці сказ абгрунтоўвае другі (паказчык сувязі — займеннікавы паўтор *у іх*, які замяшчае субстантыўнае словазлучэнне *мурожныя лугі каля ракі*). Акрамя лексіка-сінтаксічных сродкаў сувязі (*асабліва, у іх*), тут ёсць і ўласна сінтаксічныя — злучнік *але* і парадак слоў: у другім і трэцім сказах выказнік размешчаны перад дзейнікам, што прадвызначана структурай першага сказа. Значыць, стрыжнёвы сказ можа функцыянiраваць самастойна, тады як прымацаваныя да яго сказы незалежна ад таго, завершаны ці не завершаны яны граматычна, самастойна функцыянiраваць не могуць, бо заўсёды арыентаваны на стрыжнёвы сказ і без яго не могуць быць матываванымі.

Паміж паасобнымі сказамі складанага сінтаксічнага цэлага існуе міжфразавая сувязь, якая выражаецца ў структурнай суаднесенасці гэтых сказаў і афармляецца рознымі сродкамі: злучнікамі і злучальнымі словамі, анафарычнымі займеннікамі і прыслоўямі, мадальнымі словамі і часціцамі, парадкам слоў, інтанацыяй, лексічнай пераемнасцю і інш. У залежнасці ад будовы сказаў і сродкаў іх сувязі ў складаным сінтаксічным цэлым вылучаюцца два віды міжфразавай сувязі — паралельная і ступеньчатая (ланцужковая). Пры дапамозе паралельнай сувязі прымацоўваюцца сказы, якія маюць аднатыпную будову, г. зн. у большай ці меншай ступені паўтараюць структуру стрыжнёвага сказа. Структурны паралелізм ствараецца асобым парадкам слоў, аднолькавымі мадальнымі планамі, а таксама аднатыпнымі формамі суадносных кампанентаў кожнага з прымацаваных сказаў: *Весела шумеў чарот. Ды плакала недзе каліна* (Б. Мікуліч); *Гарэлі полымем гарачым асін пажоўклыя лісты. А з пералескаў і дуброў плылі вячэрнія туманы* (М. Танк). Ступеньчатая (ланцужковая) сувязь служыць для прымацавання сказаў, якія маюць разнатыпную будову, г. зн. не паўтараюць структуру

стрыжнёвага сказа, а развіваюць яе. Структурная ступеньчатасць ствараецца разгортваннем адпаведнай часткі або ўсёй структуры стрыжнёвага сказа ў прымацаваных да яго сказах і знаходзіць сваё выражэнне ў розным парадку слоў, лексічным паўтарэнні асобных словаформ, а таксама ў мадальных планах і рознай функцыянальнасці суадносных кампанентаў гэтых сказаў: *Цёмная ноч спавівала наваколле. І спакой яе быў чулым і глыбокім* (К. Чорны); *Замычэлі каровы, забляялі авечкі. То выганялі сяляне жывёлу на пашу* (М. Лынькоў). У шэрагу выпадкаў паралельная сувязь можа сумяшчацца са ступеньчатай (ланцужковай): *Загарэліся першыя зоры і паплылі як у вялікім люстры. Але хутка іх зацягнула хмарамі, мора пацямнела. Адно чырвоны агеёк партовага маяка прыветліва мільгаў праз цемень* (М. Лупсякоў); *Свяціла сонца. Павяваў лагодны ветрык. Гэта настройвала думкі на вясёлы лад* (Э. Самуйлёнак).

Складаныя сінтаксічныя цэлыя, у якіх паасобныя сказы прымацаваны адпаведнымі сродкамі паралельнай або ступеньчатай сувязі, маюць багатыя моўна-выяўленчыя магчымасці, паколькі яны здольныя комплексна, эканомна і дакладна передаць самыя тонкія сэнсавыя і эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні розных значэнняў. Гэта садзейнічае актыўнаму выкарыстанню такіх канструкцый у кніжнай мове, асабліва ў мастацкай літаратуры, дзе яны часта выступаюць у якасці адпаведных стылістычных фігур — празаічных або паэтычных строф — для трапнага адлюстравання разнастайных з'яў і падзей аб'ектыўнай рэчаіснасці.

*Літ.:* Бурак Л. І. Далучэнне ў сучаснай беларускай мове. Мн., 1975; Я г о ж. Аб структуры складанага сінтаксічнага цэлага // Slavia Orientalis. 1978. № 3; Я г о ж. Складанае сінтаксічнае цэлае ў паэме Я. Коласа «Новая зямля» // Веснік БДУ. Сер. 4.1981, № 2; Я г о ж. Звышсказавае адзінства і яго інтанацыйныя асаблівасці // Бел. мова. 1988. Вып. 16.

*Л. І. Бурак.*

## СКЛАДАНЫ СКАЗ

Складаны сказ — гэта поліпрэдыкатыўная сінтаксічная адзінка, прызначаная для паведамлення і арганізаваная з двух ці больш простых сказаў, аб'яднаных у структурнае, сэнсавае і інтанацыйнае адзінства. У складаным сказе простыя сказы страчваюць самастойнасць і ператвараюцца ў адпаведныя прэдыкатыўныя часткі, якія ўзаемна звязаны і дапаўняюць або характарызуюць адна адну. Сінтаксічная сувязь прэдыкатыўных частак рэалізуецца злучнікавым або бяззлучнікавым спосабам, а таксама інтанацыяй і структурнымі суадносінамі гэтых частак.

Паводле сродкаў сувязі складаныя сказы падзяляюцца на злучнікавыя, бяззлучнікавыя і камбінаваныя. Сярод з л у ч н і к а в ы х вылучаюцца складаназлучаныя і складаназалежныя сказы. У с к л а д а н а з л у ч а н ы х сказах прэдыкатыўныя часткі сінтаксічна раўнапраўныя, аб'яднаны злучальнымі злучнікамі і выражаюць спалучальныя, супастаўляльныя, размеркавальныя і розныя віды далучальных адносін. Гэтыя адносіны сведчаць пра наяўнасць пэўнага падабенства ці адрознення паміж аб'яднанымі часткамі незалежна ад іх канкрэтнага лексіка-граматычнага напаўнення. Спалучальныя адносіны, пры якіх паведамляецца пра адначасовыя або паслядоўныя з'явы ці падзеі, афармляюцца злучнікамі *і, ды: Веснавая вада сышла, і паплавы абсыхалі* (К. Чорны); *Прыпякае сонца, ды вее лагодны ветрык* (Я. Колас). Супастаўляльныя адносіны, пры якіх з'явы ці падзеі адрозніваюцца, не адпавядаюць або проціпастаўляюцца адна адной, афармляюцца злучнікамі *а, але, толькі* і інш.; *Кароў матка падоіць, а бацька коней напоіць* (К. Крапіва); *Было хмарна, але дажджу не было* (М. Зарэцкі); *Навокал было цёмна, толькі паасобныя агеньчыкі хат міргалі на ўзгорку* (П. Броўка). Для афармлення размеркавальных адносін, пры якіх паведамляецца пра папераменныя з'явы ці падзеі, ужываюцца злучнікі *ці, або, то-то* і інш.: *Ці вятры прамчацца з шумам, ці снягі цярусяць* (П. Броўка); *Верабейку стужа зморыць або ястраб схваціць* (Я. Купала); *То нямеюць нівы ў полі, то дрыжыць пяшчотна гай* (У. Хадыка). Далучальныя адносіны, пры якіх адна частка служыць дадатковым паведамленнем да другой часткі, афармляецца злучнікамі *ды і, ды і то, а іменна* і інш.: *Сям-там калыхалася на кустах пажоўклае лісце, ды і ў паблёклай траве валялася яго нямала* (П. Пестрак); *Гара невысокая, ды і то з яе цяжка з'ехаць* (У. Краўчанка); *Кукуруза адыгрывае важную ролю ў развіцці сельскай гаспадаркі, а іменна: яна дае магчымасць значна павялічыць вытворчасць мяса-малочных прадуктаў* («Звязда»). У адпаведнасці з будовай і характарам выражаных адносін складаназлучаныя сказы могуць мець адкрытую або закрытую структуру.

У с к л а д а н а з а л е ж н ы х сказах прэдыкатыўныя часткі сінтаксічна нераўнапраўныя, аб'яднаны падпарадкавальнымі злучнікамі і выражаюць працэсуальныя, суб'ектныя, аб'ектныя, атрыбутыўныя і розныя віды акалічнасных адносін. Гэтыя адносіны сведчаць пра сінтаксічнае падпарадкаванне адной прэдыкатыўнай часткі (даданай) другой часцы (галоўнай). У залежнасці ад спосабу сувязі і характару адносін паміж галоўнай і даданай часткамі адрозніваюць складаназалежныя сказы нерасчлянёнай і расчлянёнай будовы. У сказах нерасчлянёнай будовы даданыя часткі прымацаваны да галоўнай цеснай сувяззю, бо адносяцца да асобных яе кампанентаў і служаць для іх удакладнення і канкрэтызацыі. Паміж гэтымі часткамі выражаюцца працэсуальныя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучальнымі словамі *хто, што* і інш., канкрэтызуе выказнік галоўнай часткі: *Таварыш той, хто дапаможа зайсёды ў бядзе* (М. Гарэцкі); *Дзедава думка была такая, што вымагала дапамогі адважных людзей* (Я. Колас); суб'ектныя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучальнымі словамі *хто, што* і інш., канкрэтызуе або замяшчае дзейнік галоўнай часткі: *Усё, што было ў хаце, зроблена сваімі рукамі* (К. Чорны); *Хто ў грыбы хадзіў — ведае іх смак* (Я. Колас); атрыбутыўныя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучальнымі словамі *які, каторы* і інш., характарызуе субстантыўны кампанент галоўнай часткі: *Пахне раніца пойднем, які ўслед за ёй наступае* (П. Макаль); *Добра тое жыта жаць, каторае гнецца* (Народнае); аб'ектныя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучнікамі *што, ці* і інш., дапаўняе семантычна недастатковы выказнік галоўнай часткі: *Мы верым, што будзе мір і шчасце на зямлі* («Звязда»); *Вокам змералі салдаты, ці далёка да сяла* (М. Калачынскі); адносіны спосабу дзеяння, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучнікамі *як, нібы* і інш., раскрывае спосаб ажыццяўлення дзеяння галоўнай часткі: *Дзень прайшоў не так, як ёй хацелася* (П. Кавалёў); *Маці старалася трымацца так, нібы нічога не было* (П. Броўка); адносіны меры і ступені, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучнікамі *што, як* і інш., паказвае меру ці ступень праяўлення дзеяння галоўнай часткі: *Было так светла, што можна было іголкі збіраць* (К. Чорны); *Ужо сабралася столькі людзей, як ніколі не было каля млына* (П. Броўка). Даданая частка ў сказах нерасчлянёнай будовы часцей за ўсё размяшчаецца пасля галоўнай, радзей — у сярэдзіне яе ці перад ёй.

У складаназалежных сказах расчлянёнай будовы даданыя часткі прымацаваны да галоўнай слабай сувяззю, бо адносяцца да ўсяго яе зместу і не прадвызначаюцца яе структурай. Паміж такімі часткамі існуюць часавыя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучнікамі *калі, як* і інш., паказвае час ажыццяўлення дзеяння галоўнай часткі: *Мы выйдзем рана-рана на нашу сенажаць, калі яшчэ туманы над рэчкаю ляжаць* (А. Русак); *Раскрываюцца краскі начныя, як выпадуць росы* (М. Багдановіч); прасторавыя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучальнымі словамі *дзе, куды, ад-*

*куль*, паказвае месца ажыццяўлення дзеяння галоўнай часткі: *Перасохла рэчышча, дзе крыніца бегла* (В. Вітка); *Куды павявае ветрык, туды сцелецца дым ад вогнішча* (К. Чорны); *Мы пайшлі туды, адкуль чулася песня* (А. Пальчэўскі); прычынныя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучнікамі *бо, што* і інш., раскрывае прычыну дзеяння галоўнай часткі: *Ужо сонца не відаць, бо за хмары легла спаць* (М. Хведаровіч); *Злавацъ чыноўнік пачынае, што дзядзька вытрыманасць мае* (Я. Колас); мэтавыя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучнікамі *каб, абы* і інш., раскрывае прызначэнне дзеяння галоўнай часткі: *Трэба выцерпець шмат за айчыну, каб яе навучыцца любіць* (А. Звонак); *Зробіш любую работу, абы смеху людскога не чуць* (П. Глебка); умоўныя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучнікамі *калі, раз* і інш., раскрывае ўмову ажыццяўлення дзеяння галоўнай часткі: *Ураджайным будзе лета, калі снег аж да акон* (А. Бялевіч); *Раз хмары ходзяць над зямлёй, то хутка дождж пачнецца* (М. Клімковіч); уступальныя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучнікамі *хоць, дарма што*, супярэчыць зместу галоўнай часткі: *Трывожна, хоць скрозь цішыня* (П. Броўка); *Яму ўсяго пад трыццаць, дарма што барадою да вачэй зарос* (ЛіМ); параўнальныя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучнікамі *як, быццам* і інш., параўноўваецца са зместам галоўнай часткі: *Патанулі птушкі ў дрэвах, як тонуць рыбы ў водах* (П. Панчанка); *Радасна бліснулі вочы, быццам іх сонца прамень запаліў* (М. Танк); далучальныя адносіны, пры якіх даданая частка, прымацаваная злучнікамі і адноснымі словамі *так што, таму* і інш., служыць дадатковым паведамленнем да зместу галоўнай часткі: *Крайнія хаты стаялі амаль пад самымі соснамі, так што шышкі і хвоя заляталі ў двары* (І. Шамякін); *Двор быў акуратны, што рабіла прыемнае ўражанне* (Б. Мікуліч); *Дзень па-асенняму хмурны, таму пад елкамі амаль вячэрні паўзмрок* (І. Шамякін). Даданая частка ў сказах расчлянёнай будовы займае пазіцыю пасля галоўнай або перад ёй.

Складаназалежныя сказы нярэдка маюць дзве і больш даданых частак, якія паралельна ці паслядоўна звязаны з галоўнай: *Салодка мроіцца, як пахне мак, як зоры рояцца і спіць вішняк* (М. Машара); *Вільготны вецер прыносіў той характэрны пах, па якім пазнаецца, што блізка вясна* (І. Шамякін). Незалежна ад колькасці і разнавіднасцей прэдыкатыўных частак складаназалежныя сказы заўсёды маюць закрытую структуру.

Б я з з л у ч н і к а в ы я складаныя сказы арганізаваны з сінтаксічна раўнапраўных або нераўнапраўных прэдыкатыўных частак, якія аб'яднаны бяззлучнікавай сувяззю. Гэта сувязь рэалізуецца інтанацыяй, парадкам слоў, трывальна-часавымі суаднесінамі выказнікаў і іншымі лексіка-граматычнымі сродкамі. Адносіны, якія выражаюцца паміж прэдыкатыўнымі часткамі такіх сказаў, нярэдка сінанімічныя адносінам, выражаным у складаных сказах са злучнікамі. Параўнаем: *Майчала ноч па-над палянай, зялёны гай не гаманіў* (П. Трус) і *Майчала ноч па-над палянай, і зялёны гай не гаманіў* — спалучальныя адносіны; *Алесь пачуў — мінула ліха* (Я. Колас) і *Алесь пачуў, што мінула ліха* — аб'ектныя адносіны. У шэрагу выпадкаў сінанімічнасць рознабаковая і таму вызначаецца канкрэтным камунікатыўным заданнем: *Усе паехалі, мы засталіся адны* (К. Чорны) і *Усе паехалі, і мы засталіся адны* (спалучальныя адносіны); *Усе паехалі, а мы засталіся адны* (супастаўляльныя адносіны); *Калі ўсе паехалі, мы засталіся адны* (часавыя адносіны); *Усе паехалі, так што мы засталіся адны* (выніковыя адносіны). Сустракаюцца таксама сказы тыпізаванай структуры, у якіх выражаныя адносіны не маюць сінанімічных эквівалентаў сярод злучнікавых сказаў: *Прыслухаўся — цішыня ночы* (З. Бядуля); *Яна адкрыла вочы: сонца ў іх* (Б. Мікуліч), дзе нельга ўставіць ні адзін са злучальных або падпарадкавальных злучнікаў.

У складаныя сказы к а м б і н а в а н а й будовы ўваходзяць тры і больш прэдыкатыўныя часткі, якія па-рознаму пабудаваны і аб'яднаны рознымі відамі злучнікавай і бяззлучнікавай сувязі. У выніку аб'яднання паасобных прэдыкатыўных частак звычайна ўтвараюцца складаныя часткі, якія арганізуюцца паводле мадэлі складаназзлучаных, складаназалежных або бяззлучнікавых складаных сказаў: *На дварэ цёпла — дзеці гуляюць каля хаты, а стане халадней — яны ідуць у хату* (З. Бядуля); *Хоць даўно развіднела і ўзышло сонца — на полі нікога не відаць: усе некуды разышліся* (А. Стаховіч); *Над ракой, дзе каліна, сенажаць церабілі; у сяле, дзе дзяўчына, у паход затрубілі* (Я. Купала). Такія канструкцыі ўтрымліваюць максімальную інфармацыю, з'яўляючыся самымі аб'ёмнымі паводле структуры тыпамі складанага сказа.

Злучнікавыя, бяззлучнікавыя і камбінаваныя складаныя сказы маюць багатыя моўна-выяўленчыя магчымасці. Яны шырока ўжываюцца ў мастацкай літаратуры як адпаведныя стылістычныя фігуры (антытэза, паралелізм, параўнанне, градацыя, асіндэтон, полісіндэтон, перыяд і інш.). У іх форме існуюць некаторыя прыказкі і прымаўкі, з іх арганізуюцца розныя маналагічныя і звышсказавыя адзінствы. З дапамогаю складаных сказаў перадаецца статычнасць або дынамічнасць у афармленні разгорнутых паведамленняў, адцяняецца іх інфарматыўная сутнасць і камунікатыўная дзейнасць.

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986; Б у р а к Л. І. Сучасная беларуская мова: Сінтаксіс. Пунктуацыя. Мн., 1987.

*Л. І. Бурак.*

## СКЛАДАПАДЗЕЛ

Складападзел — гэта вызначэнне межаў паміж складамі ў слове і на стыках слоў. Пры ўспрыманні слова на слых колькасць складоў у ім вызначаецца лёгка, аднак межы паміж імі расстаўляюцца па-рознаму: *зя-мля* ці *зям-ля; ро-зны* ці *роз-ны*.

Існуе некалькі прынцыпаў складападзелу. П р ы н ц ы п п а в е л і ч э н н я г у ч н а с ц і, распрацаваны Р. І. Аванесавым, улічвае слыхавыя якасці гукаў. Найбольш гучныя — галосныя; *ў, й* і санорныя *р, м, н, л* — сярэдняй велічыні гучнасці; астатнія зычныя — малой гучнасці. Зычныя, якія папярэднічаюць пры пабудове складоў галоснаму, заўсёды ствараюць з ім паслядоўнасць з павелічэннем гучнасці (*ва́-пна, ша́-пка*).

У аснове прапанаванага Л. У. Шчэрбам п р ы н ц ы п у м у с к у л ь н а г а н а п р у ж а н н я ляжаць артыкуляцыйна-фізіялагічныя адрозненні зычных гукаў. Моўную плынь стварае паслядоўнасць складоў (імпульсаў мускульнага напружання, якое паніжаецца паміж імі). Міжскладовай мяжой лічыцца месца найбольшага напружання, звычайна пры вымаўленні галоснага (*ва́п-на, ша́п-ка*). Ступень напружанасці галоснага ўплывае на напружанасць сегментаў суседняга зычнага. У зычных пасля націскнога галоснага перад зычным больш напружаны пачатковы сегмент. У санорных пачатковы сегмент больш напружаны і пасля націскных галосных. Таму зычныя пасля націскнога галоснага, а санорныя зычныя ў любым выпадку далучаюцца пры складападзеле да папярэдняга галоснага. Канцавы сегмент зычных больш напружаны, калі ён непасрэдна прымыкае да галоснага.

Паводле гэтага прынцыпу паслядоўнасць гукаў $ЗГЗ_1З_2Г$, дзе $З_1$ (зычны) несанорны, атрымлівае розны складападзел у залежнасці ад таго, які галосны (Г), першы ці другі, націскны. Калі першы, то $З_1$ пачаткова напружаны і складападзел праходзіць $ЗГЗ_1—З_2Г$ (*гу́с-та*). Калі ж націск падае на другі галосны, то $З_1$ канцавы напружаны, і таму пры складападзеле ён далучаецца да другога склада (*гу-сты́*). Прынцып павелічэння гучнасці не ўлічвае месца націскнога галоснага адносна несанорных спалучэнняў.

П р ы н ц ы п в е р а г о д н а с ц і с к л а д а, прапанаваны М. В. Ламаносавым, дазваляе пакідаць збег зычных у складзе, калі ў лексіцы ёсць сло-

вы з такімі спалучэннямі зычных у пачатку: *дазвол* (ёсць беларускае слова *зварот*). Але недазвальяльны складападзел тыпу *ка-лгас*, бо з пачатковым *лг* беларускіх слоў няма.

Паводле прынцыпу імкнення да адкрытых складоў зычны гук незалежна ад яго якасці, месца націску ў слове і аддаленасці ад наступнага галоснага ($З_1Г$, $З_1ЗГ$, $З_1ЗЗГ$) акустычна звязаны з наступным галосным мацней, чым з папярэднімі. Складападзел адпаведны: *ка-лга́-сы, па́-ста, па-ста́-віць, за-зна́-чыць, вы-ра́-зна.* Гэты прынцып больш поўна праяўляецца пры вымаўленні злітных вусных выказванняў, фраз *(пры-нё-са-ло-ва-кі-сшы́-так)*, прычым не поўным, а размоўным стылем, пры рэдукцыі адных гукаў і ўзнікненні другіх (замест *кансерваваць* вымаўляецца *ка-се-ры-ва-ва-цы*).

У беларускай мове пашыраны прынцып складападзелу ў адпаведнасці з павелічэннем гучнасці. Калі ў слове апошні гук галосны, а зычныя і галосныя гукі размешчаны па чарзе, складападзел праводзіцца паміж галосным і наступным зычным: *ба-ра-на-ва-лі, са-ма-да-па-мо-га.* Калі паміж галоснымі ёсць спалучэнне шумных зычных ці шумнага і санорнага, складападзел праводзіцца перад першым зычным гэтага спалучэння: *мя-тла, по-шта.* Калі паміж галоснымі ёсць спалучэнні санорных зычных, санорнага, *й* і *ў* з шумным, складападзел праходзіць паміж зычнымі: *гал-ка, жар-ты, пам-рэ, буй-ны, роў-ны.* Спалучэнні зычных гукаў у пачатку і ў канцы слова (незалежна ад тыпу зычных) цалкам адносяцца да склада, утворанага суседнім галосным гукам: *зра-бі-ла, ка-лібр.* Складападзел на стыку марфем праводзіцца паводле агульнага прынцыпу, таму падзел слова на марфемы *(пад-ыгр-а-л-і)* можа не супадаць з падзелам на склады *(па-ды-гра-лі)*.

У пералічаных прынцыпах складападзелу гукі ў слове працістаўляюцца па фанетычнай характарыстыцы: артыкуляцыйнай (мускульная напружанасць), акустычнай (імкненне да адкрытых складоў), слыхавой (павелічэнне гучнасці). Гэта прынцыпы лінгвістычнага парадку: жорсткія паслядоўныя правілы размежавання зычных паміж суседнімі складамі. Яшчэ адзін прынцып складападзелу — псіхалінгвістычны — тлумачыць пэўны несвядомы (рознымі людзьмі па-рознаму) падзел спалучэнняў зычных пры пераносе слоў з радка ў радок: *ша-пка, шап-ка.*

На пісьме прынцыпы складападзелу прымяняюцца для правільнага пераносу слова з аднаго радка ў другі: пераважна паміж галосным і зычным пры іх паслядоўным чаргаванні ў словах з апошнім галосным. Пры спалучэннях зычных не на стыку марфем дапускаюцца два варыянты падзелу спалучэння ГЗЗГ і Г — ЗЗГ і ГЗ — ЗГ *(ца-гліна* і *цаг-ліна)*, тры варыянты падзелу тыпу ГЗЗЗГ: Г — ЗЗЗГ, ГЗ — ЗЗГ і ГЗЗ — ЗГ *(ся-стра, сяс-тра* і *сяст-ра)*, чатыры варыянты падзелу спалучэння ГЗЗЗЗГ: Г — ЗЗЗЗГ, ГЗ — ЗЗЗГ, ГЗЗ — ЗЗГ, ГЗЗЗ — ЗГ *(ка-нструктар, кан-структар, канс-труктар, канст-руктар)*. На пісьме пры пераносе частак слоў у некаторых выпадках адхіляюцца ад правіл складападзелу і ўлічваюць іх марфемную будову: *пад-нёс* замест *па-днёс, прад-мова,* а не *пра-дмова.*

*Літ.:* Бондарко Л. В., Павлова Л. П. О фонетических критериях при определении места слоговой границы // Русский язык за рубежом, 1967, № 4.

*Г. В. Лосік.*

# СКЛАНЕННЕ

Скланенне — гэта змяненне па склонах і ліках назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў, а таксама дзеепрыметнікаў (атрыбутыўных форм дзеясловаў).

У беларускай мове 6 склонаў: назоўны, родны, давальны, вінавальны, творны, месны. Асобныя адушаўлёныя і персаніфікаваныя назоўнікі маюць так званую клічную форму, якая ў маўленні (у складзе выказвання) выконвае ролю зваротка ці выступае ў якасці вакатыўнага выказвання. Невялікая група назоўнікаў дагэтуль захавала спецыфічны канчатак клічнай формы: *сыне, о́йча, ко́ню, га́ю,* дыялектныя *до́ню, ма́мо.* Аднак гэты канчатак не служыць для сувязі слоў у словазлучэнні, таму яго не ўключаюць у лік склонаў і клічную форму не называюць асобным склонам.

Адрозніваюць агульную і прыватную парадыгмы (сістэмы склонавых форм) скланення. Большасці назоўнікаў уласцівы дзве прыватныя парадыгмы — адзіночнага або множнага ліку. Асобныя колькасна невялікія групы назоўнікаў маюць толькі форму адзіночнага ліку (так званыя адзіночналікавыя, лац. singularia tantum) — *здароўе, хадзьба, кісларод,* або толькі форму множнага (множналікавыя, лац. pluralia tantum) — *высеўкі, шахматы, радзіны.* Агульная парадыгма можа быць прадстаўлена адной, дзвюма ці чатырма прыватнымі парадыгмамі. Так, агульная парадыгма асабовых займеннікаў *я, ты, мы, вы,* пытальна-адносных займеннікаў *хто, што,* колькасных і зборных лічэбнікаў складаецца з адной прыватнай парадыгмы скланення адзіночнага ліку, якая вычэрпвае ўсю сістэму іх форм. Агульная парадыгма прыметнікаў дзеепрыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў, некаторых разрадаў займеннікаў складаецца з чатырох прыватных: сістэм форм множнага ліку і адзіночнага ліку мужчынскага, жаночага і ніякага роду.

Склонавыя формы ў кожнай з прыватных парадыгм адрозніваюцца сваімі канчаткамі. Не існуе ні адной парадыгмы з уласнымі, неаднолькавымі канчаткамі і формы асобных склонаў супадаюць: назоўнага і вінавальнага *(стол)*, роднага і вінавальнага *(брат-а)*, роднага, давальнага і меснага *(печ-ы)*. Звычайна пры скланенні ў парадыгме налічваецца ад 5 да 1 канчатка (у лічэбніках *сто* — 2, *дзевяноста* — 1; у назоўніка *мацi* — 1 форма-амонім для 6 склонаў адзіночнага і множнага лікаў).

Скланеннем называюцца і класы слоў, аб'яднаных падабенствам утварэння склонавых форм, а таксама тыпы словазмянення. У беларускай мове 2 асноўныя скланенні: субстантыўнае і ад'ектыўнае. Нязменныя назоўнікі *(дэпо, бра)* і нязменныя прыметнікі *(хакі, беж)* ва ўсіх склонах маюць аманімічныя нулявыя канчаткі і ўтвараюць асобны, так званы нулявы тып скланення.

Тры тыпы субстантыўнага (назоўнікавага) скланення яскрава размяжоўваюцца толькі ў адзіночным ліку. Да 1-га адносяцца назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне і ніякага роду з канчаткамі *-о́* (не пад націскам *-а*), *-ё, -е: дом, конь, акно, дрэва, галлё, поле*; да 2-га — назоўнікі жаночага і мужчынскага роду з канчаткам *-а(-я): вада, зямля, стараста, суддзя, сірата;* да 3-га — назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам *(арцель, мыш, печ)*, ніякага роду на *-мя (племя, полымя)* і назоўнік *дзіця.*

Нумарацыя скланенняў у значнай меры ўмоўная. У школьнай граматыцы скланенне назоўнікаў жаночага роду на *-а (-я)* традыцыйна лічыцца 1-м, а мужчынскага і ніякага 2-м. Тып скланення назоўнікаў мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку і з канчаткам *-о* ніякага роду *(стол, дзень, верацяно* і падобныя) колькасна найбольшы і, па словах акадэміка В. У. Вінаградава, з'яўляецца граматычнай базай усёй сістэмы іменнага скланення. Таму ў навуковых граматыках лічыцца 1-м.

Прыметнікі (акрамя прыналежных) і дзеепрыметнікі скланяюцца паводле ад'ектыўнага скланення. Лічэбнікі і займеннікі адзінага ўзору не маюць і скланяюцца часткова на ўзор назоўнікавых тыпаў, часткова на ўзор прыметнікавага скланення. Пры гэтым менш схільныя да уніфікацыі лічэбнікі і займеннікі пры скланенні маюць даволі вялікую колькасць парадыгм са сваімі спецыфічнымі канчаткамі.

Не ўсе назоўнікі, прыметнікі, лічэбнікі і займеннікі скланяюцца па гэтых трох тыпах. У сучасных навуковых граматыках вылучаюць прамежкавыя тыпы скланення. Да іх адносяцца займеннікавае скланен-

не (прыналежныя прыметнікі *мамін, цётчын* і падобныя, лічэбнікі *двое, трое, чацвёра*, займеннік *ён, гэты, сам* і іншыя) і асобнае прыналежнае скланенне: мужчынскія і жаночыя прозвішчы на *аў (-ав-а), -оў (-ов-а), -ёў (ёв-а), -еў (-ев-а), -ін (-ін-а), -ын (-ын-а) — Данілаў, Кавалёў, Фамін, Салаўёва, Мішына*; прыналежныя прыметнікі тыпу *бацькаў, дзядзькаў*, а таксама запазычаныя назоўнікі *швартоў, кабельтаў*. У беларускай мове прыналежныя прыметнікі тыпу *мамін, цётчын, бацькаў, дзядзькаў* і падобныя захоўваюць свае спецыфічныя канчаткі толькі ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду, а ў формах астатніх склонаў яны маюць канчаткі звычайных поўных якасных і адносных прыметнікаў. У гаворках і ў мове мастацкай літаратуры гэтыя прыметнікі ў назоўным і вінавальным склонах маюць канчаткі поўных прыметнікаў *(цётчын дом, бацькавае паліто)*, але гэта не прызнаецца літаратурнай нормай.

*Літ.:* Наркевіч А. І. Назоўнік: Граматыч, катэгорыі і формы. Мн., 1976; Беларуская граматыка. Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. *П. П. Шуба.*

## СКРЫГАН ЯН



Скрыган Ян (Іван Аляксеевіч) нарадзіўся 3(16) лістапада 1905 г. ў в. Труханавічы Капыльскага раёна. Беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1985). Вучыўся ў Слуцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, БДУ (1928—32). Працаваў у слуцкай акруговай газеце «Вясковы будаўнік» (1924—25), загадчыкам народнага дома ў Расонах (1925—26), у газетах «Чырвоная Полаччына» (1926—27), «Літаратура і мастацтва» (1933—36). У 1936 г. рэпрэсіраваны, жыў за межамі Беларусі (Сібір, Узбекістан, Эстонія). У 1955—59 працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР, у 1959—67 у часопісе «Полымя», у 1967—75 загадчык літаратурна-кантрольнай рэдакцыі БелСЭ. У 1975—85 адказны сакратар Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Памёр Іван Аляксеевіч Скрыган 18 верасня 1992 г.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1924 г. Пад псеўданімамі Пірат, Янка (Ян, Я.) Відук змяшчаў вершы ў літаратурных зборніках і часопісах, газетах. Быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк», «Літаратурна-мастацкая камуна».

Творчы шлях Скрыгана-празаіка пачынаўся з апавядання «Таіса» і аповесці «Затока ў бурах». Ад некаторых іншых маладнякоўцаў Я. Скрыган адрозніваўся арыентаванасцю на традыцыю, вострым адчуваннем мовы, любасцю да роднага слова, імкненнем вучыцца, а не вучыць.

У наступных творах замацоўваецца вызначальная рыса стылю пісьменніка: простая, натуральная і музычная фраза. Словы ў яго не спяшаюцца, не выпярэджваюць адно другое, а кладуцца на сваё месца. Слоўны запас літаратурнай (і часткова дыялектнай) мовы скарыстоўваецца раўнамерна, без прыкметнага вылучэння тых ці іншых лексічных і фразеалагічных адзінак. Я. Скрыган не проста піша, а, што называецца, малюе, адбіраючы, выпрабоўваючы кожнае слова, услухоўваючыся ў ягонае гучанне (М. Смолкін). Каб атрымаць уяўленне пра мову і стыль пісьменніка, прыводзім урывак з «круга» (цыкла) «Парог» — успамін маленства.

*На шостым тыдні я падняўся з пасцелі. Дома не было нікога. На дварэ так ярка лінуўся на мяне шырокі свет, так многа раскрылася нада мною неба, што я зажмурыўся. Вочы пазнавалі ўсё нанава, як бы дасюль усё гэта бачылі толькі ў сне. На прыгуменні, адразу за пералазам, расла маладая, яшчэ прывязаная да калка слівіна, яна толькі сёлета дала свой першы плод. Вельмі захацелася дайсці да яе, там жа ўнізе такая мяккая, шаўкавіста-ласкавая трава. Ногі ступалі бог ведае як доўга, цела трымцела нейкай празрыстай, салодкай слабасцю, я баяўся, каб, барані божа, не пахіснуцца, бо калі буду падаць, разаб'ецца ўся гэтая толькі сёння нарэшце знойдзеная мною краса навакольнага свету. На кволенькай галінцы, сярод рэдкага, як бы неасцярожна прыпаленага клінаватага лісця, вісела адна-аднюсенькая слівіна, такая буйная і такая набрынялая сваёй тугой сінізною, што край яе аж лопнуў і з расколіны выцек і застыў камячок шыза-ашклянелай сукравіцы. Я быў згаладалы, схуднелы да таго, што рукі мае на сонцы прасвечваліся, і мне нічога цяпер так не хацелася, як зараз жа сарваць і з'есці гэтую слівіну.*

Творы Я. Скрыгана ахопліваюць вялікі адрэзак часу — ад пачатку і амаль да канца 20 стагоддзя. Гэта абумовіла склад і характар лексікі і фразеалогіі пісьменніка, крыніца якіх — літаратурная мова і гаворкі Случчыны. Пры пераважнай большасці слоў актыўнага ўжывання заўважаем такія, што выйшлі ў пасіўны запас у выніку змен у грамадска-палітычным жыцці і побыце народа: *бравэрка, вакацыі, губерня, дзесяцкі, кабат, лучнік, макгазін* (памяшканне, у якім захоўвалася грамадскае збожжа), *манапалька, палясоўшчык, стражнік, сядзелец, штабс-капітан.* У гады маладосці і жыццёвай сталасці пісьменніка ў беларускай мове з'яўляліся лексічныя адзінкі, каб называць новыя паняцці, з'явы, прадметы. Зразумела, такія словы — арганічная частка пісьменніцкага слоўніка: *калгас, калгасніца, саўгас, саўгасаўскі, сельсавет, ордэн Чырвонага Сцяга* і інш.

У Скрыганавых творах — галоўным чынам у дыялогу, пры паказе вясковага побыту — актыўна выкарыстоўваюцца тыя пласты лексікі, якія вызначаюцца вобразнасцю, экспрэсіўнасцю і арыентаваныя на ўжыванне ў сферы гутарковых зносін. Сярод іх — словы, што ёсць у мове жыхароў Случчыны і некаторых іншых абшараў Беларусі. Пачутыя і засвоеныя ў дзяцінстве, яны дапамагаюць пісьменніку перадаць каларыт сакавітай гаворкі случакоў, папаўняюць рэсурсы літаратурнай мовы. Вось некаторыя з такіх слоў: *адале* (потым, пасля), *адзевак, вымудры, дзіўнота, дзяня́шні, жадоба* (вялікае жаданне, прага), *замужоўства, кепства, лецішча, лядайкі* (лядашчы), *маладзеж, малочня, нездараўчаны, нелюдскота, непазорны* (нявідны), *ныруцаць, пака́зны́* (кідкі), *пахошчы* (моцныя пахі), *пачакальня, пругло* (калодзежны журавель), *упэйкаць* (злавіць), *учуткі, шкадоба.*

Я. Скрыган увесь час вядзе пошук патрэбных мове слоў, абгрунтоўвае (у артыкулах, запісах) іх перавагі, пашырае іх у літаратурным ужытку. Такія, напрыклад, словы *звенавы (звенавая), наведнік, цяпершчына.*

*Калі Волька прыйшла, яе напарніцы — Дубоўская Кацярына і Лісавета Азярыцкая — адпачывалі, чакаючы новай машыны з поля.*

*— Садзіся,* ***звенавая****, аддыхні,— сустрэла яе Кацярына...* («Месячная ноч»); *...Жанчына ўсё пісала, яна на мяне, мабыць, забылася, і Міхаіл Сямёнавіч не ведае, што да яго тут сядзіць яшчэ адзін* **наведнік** («Мой дэпутат»); *«Во ўспомніў»,— гаворыць ён, канфузліва ўсміхаючыся і расшпільваючы свой прасторны, без пояса, шынель.— Ну і дадумаўся,— давай*

*лепш пра* ***цяперщчыну»*** («Зялёныя шкарпэткі»).

Вылучаныя першыя два словы пісьменнік разглядае як больш адпаведныя беларускай мове, чым варыянты *звеннявая* (звенявы), *наведвальнік.* «Каларытнае слова *цяперщчына»* (Я. Скрыган) прапаноўваецца як сінонім да назоўніка *сучаснасць.*

Некаторыя адметныя словы і выразы маглі ўзнікнуць як індывідуальныя, аўтарскія: *наведзіны, машынапіска* (друкавальная машынка; параўнайце: *самапіска* — аўтаручка), *камера ручной клажы: ...Здавалася, што прыехаў ён вельмі здалёк і як бы толькі ў* ***наведзіны*** («Дзядзька Цішка»); *На сваім стале ён паставіў* ***машынапіску*** *«Алімпію», корпаўся ў дакументах і пісаў дакладныя...* («Трывогі»); *І першае, што зрабіў,— здаў чамадан у* ***камеру ручной клажы,*** *і пайшоў аглядаць горад...* («Трывогі»).

Вельмі каштоўны і павучальны моўна-літаратурны досвед пісьменніка, яго разуменне літаратурных нормаў. Так, назоўнік *паліто,* як даўно запазычаны і асвоены беларускай мовай, Я. Скрыган ужывае ў розных склонавых формах (скланяе): *затулены каўняром* ***паліта****, уласцівы гэтаму* ***паліту****, у шэрым* ***паліце****, парассілаўшы* ***паліты*** *і кажухі, у добрых* ***палітах.***

Значэнне прыналежнасці зазвычай выказваецца прыметнікамі: ***дырэктараў*** *фаэтон,* ***Калюгава*** *думка,* ***паручнікава*** *шабля,* ***пракурорава*** *слова,* ***скульптараў*** *пакой,* ***спадарожнікаў*** *эгаізм,* ***Шукайлава*** *кватэра.* Натуральнасць такіх ужыванняў лепш відаць у сказе: *На хвілiначку я ўбачыў ваганне, калі* ***Галадзедава*** *рука ўзяла і крутнула ў пальцах асадку* («Світанак»); *Буду рад, калі старонкі гэтай кнігі знойдуць водгук у* ***чытачовай*** *душы ці ў нейкага абудзяць добры роздум* («Пасляслоўе»).

Займеннік *ніхто* з прыназоўнікамі *ад, у* паслядоўна ўжываецца ў традыцыйных нарматыўных формах *ні ад кога, ні ў кога: Ужо нікому не было тайнай іх сяброўства, і яны* ***ні ад кога*** *не хавалі яго* («Карла»); *...Дык жа зусім позна ўжо,* ***ні ў кога*** *нават няма агнёў* («Месячная ноч»).

У творах Я. Скрыгана адлюстраваліся асаблівасці беларускага дзеяслова. Часта ўжываюцца формы дзеяслова з прыстаўкай *па,* якія абазначаюць дзеянне, утворанае ўсімі, многімі асобамі (прадметамі) або пашыранае на ўсе, на многія аб'екты: *Паны зноў* ***паварочаліся*** *ў маёнткі* («У хроснага бацькі»); *Часамі хадзіў у Слуцак:* ***папаставаліся*** *ж там сябрукі* («Парог»); *Мы, хлапчукі, тайком бегалі на станцыю, збіралі* ***параскіданыя*** *там патроны...* («Парог»); *Вішнякі дрэмлюць, на платы* ***папапускаўшы*** *галовы»* («Зноў па дарозе»).

Пісьменнік аддае відавочную перавагу зваротным дзеясловам *пытацца, папытацца* (рэдка — *запытацца*): *Платоне, дарагі, але ж гэта трэба? Іначай нельга? —* ***папытайся*** *я з трывожным чаканнем* («Надпіс на кнізе»); *Можа, узяць ды схадзіць да Грыбаля? — каторы раз* ***пытайся*** *ў сябе Шкаруба...* («На выселках»); *«А ты ведаеш, хто я?» —* ***пыталася*** *ў яго тая Наталя, з якой ён гаварыў на паперы* («Наталя»).

Як жывая і рэгулярная з'ява выступае прошлы складаны час (паходзіць з колішняга плюсквамперфекта): *З гэтае нагоды я* ***напісаў быў*** *апавяданне «Гасцініца «Бельгія», але яно прапала* («Світанак»); *...Мне, памятаю, не так страшна папруга, як душыць крыўда і горнасць, што я не вінаваты: проста* ***захацелася было*** *спаць* («Парог»); *І аднойчы* ***мы*** *за нешта* ***былі пасварыліся*** («У старым доме»).

У Скрыганових творах розных гадоў нярэдка можна напаткаць старажытную форму будучага часу, якая захавалася ў гаворках паўднёвага захаду Беларусі і сустракаецца ў паэзіі і прозе сучасных пісьменнікаў: *Трагедыя, калі чалавек — раб зямлі. Ён ніколі не* ***ведацьме*** *свае ўрачыстасці* («Смага»); *«...Рыгорка, не пужай мяне. З табою нічога не зробіцца, Рыгорка. Я* ***чакацьму*** *цябе!..»* («Затока ў бурах»); *...Яна пачне думаць пра дачку і стане шукаць яе. І рабіць гэта будзе цяжка, бо ўвесь час не* ***давацьме*** *спакою правінка, што пра гэта не ведае Казімір* («Шуканні»).

Сінтаксіс твораў Я. Скрыгана грунтуецца на трывалай аснове жывой народнай і літаратурнай мовы. Напрыклад, пры дзеяслове з адмоўем *не* залежнае слова ўжываецца ў форме роднага склону: *Ён правёў мяне да самага дома, просячы толькі аднаго: каб я* ***не пісаў*** *у газету* ***ліста*** («Світанак»); *Здаецца, што ад'язджаў я зусім нядаўна, але от* ***не пазнаю*** *свайго* ***горада*** *і прагна прыглядаюся да ўсіх перамен* («Дом № 9»); *Я не адказваю: гэта ўжо не паможа нашым спрэчкам.* ***Майбарады*** *я* ***не папраўлю****, а ён не паправіць* ***мяне*** («Паваротак ля сасны»). Звяртаем увагу на гэтыя прыклады таму, што цяпер назіраецца адыход ад нормы: *Мы* ***не прымаем*** *механічны* ***падыход*** *у гэтай справе; Я не купіў хлеб.*

У форме роднага склону, як гэта ўласціва беларускай мове, ужывае пісьменнік залежныя словы пры дзеяслове *шукаць: Ні жайнерам, ні пану Гжэцкаму я быў больш непатрэбен: я валяўся ў сваёй крыві, прагна* ***шукаючы*** *запечанымі губамі хоць* ***кроплі*** *вады* («Таіса»); *Няхай яго адпусцяць, ён пойдзе* ***шукаць*** *сабе* ***работы****, ад якое была б карысць і яму, і людзям* («Конны двор»).

У колькасна-іменных спалучэннях, калі абазначаецца прыблізны лік, назоўнік выступае ў форме роднага склону: *Завод* ***гадоў два*** *не правярайся* («Дакументальная рэвізія»); *Аж* ***вёрст*** *за* ***чатыры*** *яго ўжо чакаюць стражнікі* («Пры вогнішчы»); *Аглядалі завод* ***мы дзён тры*** («Ранішнія росы»).

У друку гаварылася пра (В. Рабкевіч) такую моўную загану: адказваючы на пытанне ці пацвярджаючы тое, што сказаў суразмоўнік, ужываюць звычайна слова *так: «Ты хадзіў у кіно?» — «Так». «Спадабаўся фільм?» — «Так».* У адпаведнасці з традыцыяй і спецыфікай беларускай мовы Я. Скрыган найчасцей ужывае слова *але* — адзіночнае ці паўторнае.

*— Ты мяне звала, Ганна?*

*—* ***Але.*** *Вазьмі чалавека на пастой* («Месячная ноч»).

Дарэчы выкарыстоўваюцца і часціцы *так, ага.*

*— А помніш клуб Крэйнаса? Мы там ставілі «Паўлінку», і ты іграў Якіма Сароку?*

*—* ***Ага.*** *За Паўлінку была Гэля* («У старым доме»).

*— Ураджай сёлета добры.*

*—* ***Так.*** *А тут узгорак. Управіцеся самі?* («Месячная ноч»).

Праблемам культуры мовы Я. Скрыган прысвяціў шэраг артыкулаў (яны ўвайшлі ў зборы твораў): «Думкі аб мове», «Яшчэ трохі аб мове», «Чары слова», «Блізкія сэрцу думкі», «Беглыя запісы» і інш. Галоўная думка, якая праходзіць праз усе артыкулы, выказванні: гаворачы, пішучы, трэба пільнавацца (дамагацца) праўды мовы. І калі пісьменнік прапануе нашай увазе фразу накшталт *Тут вытвараецца продаж марак* і — вуснамі героя — абураецца іх штучнасцю, дык абурэнне гэта зразумелае: ён хоча, каб фраза гучала натуральна, праўдзіва, як яна гучыць у жывой мове народа. Разуменне праўды мовы, паводле Я. Скрыгана, ёмістае, яно ўключае істотныя характарыстыкі слова, сказа, тэксту. Праўда мовы — гэта перш за ўсё яе дакладнасць: «Я прывык за словам бачыць той сэнс, які памятаю з матчынай мовы, з дзяцінства» («Чары слова»). Слова праўдзівае, калі яно не штучнае, наспех прыдуманае, а жывое, узятае з моўнай скарбонкі народа, калі яно ўжыта ў адпаведнасці з яго лексічнай і граматычнай спалучальнасцю і мае тую стылістычную афарбоўку, «акрасу», якая вымагаецца канкрэтным кантэкстам.

Я. Скрыган разглядае ў сваіх артыкулах дзесяткі слоў. Прычым не рэдкіх, не вузкага ўжывання, а тых, што маюць высокую частотнасць: *валодаць, вырашаць, накіравацца, шлях, стан, імкнуцца, таропка, узняць, трапіць, хораша, клопат, аднойчы, дабрыня* і інш. Здаецца, зразумелыя, «лёгкія» словы... Але ж якраз імі, даводзіць пісьменнік, мы часта не ўмеем карыстацца, ужываем не так, як трэба. Грунтоўна, даходліва, абапіраючыся на мову народа, Я. Скрыган

тлумачыць, якія лінгвістычныя і пазамоўныя фактары трэба ўлічваць пры ўжыванні слова, звяртае ўвагу на сэнсавыя, эмацыянальна-экспрэсіўныя, стылістычныя адценні слоў, на гучанне. Так, прывёўшы колькі сказаў, у якіх ужыта слова *вырашыць*, ён адзначае: «Нельга сказаць, каб гэта было няправільна. Сэнс перададзены. Але ж ці хапае гэтага? Ці не абакралі мы сябе, заспакоіўшыся толькі на сэнсе? А дзе ж каларыт мовы, дзе тыя адценні, якія кожнаму выпадку надаюць свой характар? Дзе ж багацце, якое так і пераліваецца ў жывой гаворцы?» (Выбр. тв. Т. 2. Мн., 1975. С. 327). Пісьменнік прапануе блізказначныя словы, якія могуць замяніць у кожным выпадку дзеяслоў *вырашыў*. Гэта: *надумаў, захацеў, сабраўся, насмеліўся, намысліў, намерыўся*.

Працуючы над тэкстам, дамагаючыся натуральнасці гучання мовы, трэба зважаць не толькі на будову сказа, значэнне і форму слоў, але і на іх «акрасу», «фарбы». На думку Я. Скрыгана, вялікі стылёвы недахоп твора — «лішноты ў харастве», «штучнае «літаратурнае» хараство», «бліскучыя слоўныя выверты». «Найлепшае хараство ў самай звычайнай прастаце».

Шкодзяць мове штучнасць, аказёненасць: «Асабліва псуюць і калечаць мову бяздумныя калькавыя пераклады і так званыя канцылярыты, калі і само слова, і канструкцыя фразы робяцца сілком, насуперак законам мовы» (тамсама. С. 338).

Выпрацаваны пісьменнікам прынцыповы падыход да мовы адыграў сваю станоўчую ролю і ў той час, калі ён узначальваў літаратурна-кантрольную рэдакцыю БелСЭ. Шмат зрабіў Я. Скрыган, каб мова энцыклапедыі ў разумнай меры ўзбагацілася з крыніц жывой гаворкі беларускага народа, каб яна была навукова дакладная і ў той самы час даступная масаваму чытачу. Праца пісьменніка адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР 1976 г.

*Тв.:* Выбр. тв. Т. 1—2. Мн., 1975, 1985.

*Літ.:* Ярош М. Верачы ў людзей // ЛіМ. 1964. 5 мая; Смолкін М. Кругі жыцця: Літ. партрэт Я. Скрыгана // Полымя. 1975. № 11; Каўрус А. Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989; Шупенька Г. Гаварыць — душою // Беларусь. 1990. № 11.

*А. А. Каўрус.*

## СЛАВАЦКАЯ МОВА

Славацкая мова — адна з заходнеславянскіх моў, дзяржаўная мова Славакіі (да канца 1992 г. і былой Чэха-Славакіі). На ёй гаворыць больш за 5 млн. славакаў у Славакіі і больш за 1 млн. у ЗША, Венгрыі, Югаславіі, Канадзе, Румыніі, Чэхіі, Польшчы і ў рэспубліках СНД (15 тыс. чалавек), а таксама ў Аргенціне, Аўстраліі, Бразіліі, Францыі і інш.

У славацкай мове вылучаюць тры групы дыялектаў: заходнія, цэнтральныя і ўсходнеславацкія. Першы ўласна славацкі помнік «Острыгамскі рытуал» (1625) напісаны на цэнтральнаславацкім дыялекце. Літаратурная славацкая мова заснавана на цэнтральнаславацкім дыялекце, дзякуючы намаганням Людавіта Штура, Ёзэфа-Міласлава Гурбана і Міхала-Міласлава Годжы.

Славацкая графіка стваралася на аснове чэшскай з дадаткам знакаў: *ä, ô, l', ĺ, ŕ, dz, dž*. Дыякрытычны знак ´ азначае даўжыню галосных *a, o, u, e, i, y (pás, sóda, múr, sféra, krík, býk)* і складаўтваральных *l, r (žltý — žltok, srdce — sŕdc)*. Знак ˇ выкарыстоўваецца для абазначэння шыпячых *č*, [ч], *ž* [ж], *š* [ш] і афрыкаты *dž* [дж], а таксама мяккасці *ň* [нь] і вялікіх літар *Ň* [нь] і *Ť* [ць], *Ď* [дь] перад галоснымі *a, o, u* і ў канцы склада. Мяккасць малых мяккіх *t, d, l* і вялікага *L* абазначаецца апострафам ' *(d'alekohl'ad, t'ažký, L'vov)*. Перад *e, i* літары *t, d, n, l* вымаўляюцца мякка. Для дыфтонга *u̯o* выкарыстоўваецца знак ˆ над о *(stôl, kôň)*, а знак ¨ над *a* (*ä*), якое пішацца толькі пасля губных зычных, абазначае шырокае адкрытае *э (mäso, päť)*. Апрача дыфтонга *ô* [u̯o] пасля мяккіх зычных або пасля былых мяккіх зычных сустракаюцца дыфтонгі *ia, ie (čiara, diet'a)*, а ў некаторых скланавых канчатках таксама дыфтонг *iu (tretiu, paniu)*, першая частка ў іх — *i* вымаўляецца як кароткае [i̯]. Славацкія дыфтонгі прыраўноўваюцца да доўгіх галосных. Літары *i, y* абазначаюць адну і тую ж фанему [i̯], але зычны перад *y* вымаўляецца цвёрда. Літары *x* [ks, gz], *w, q* (апошняя ў спалучэнні з *u* вымаўляецца як *кв*) і *ó* сустракаюцца толькі ў замежных словах.

Доўгія і кароткія галосныя не звязаны з эспіраторным націскам, які ў большасці слоў робіцца на першым складзе. Аднак ёсць група слоў без націску (т. зв. энклітыкі), якія, як правіла, далучаюцца да папярэдняга слова (*'povedal mi* 'сказаў мне', *'mal by sa vrátit'* 'ён павінен быў бы вярнуцца').

Асаблівасцю славацкай фанетыкі з'яўляецца наяўнасць рытмічнага закону: у слове не могуць ісці адзін за адным два доўгія склады; у процілеглым выпадку другі склад скарачаецца (*ženám*, але *úderníčkám; mestá, mestám*, але *miesta, miestam.)*.

У сучаснай славацкай літаратурнай мове 41 фанема: 14 галосных (з дыфтонгамі) і 27 зычных, з якіх 20 складаюць 10 пар паводле звонкасці — глухасці: *b — p, v — f, d — t, d' — t', dz — c, dž — č, z — s, ž — š, g — k, h — ch* [x]; няпарныя звонкія фанемы — *m, n, ň, l, l', r, j* Гук [г] толькі цвёрды (нават перад *i, e*), *l* — сярэднееўрапейскае, а *l'* — мяккае [ль]. Падвойныя зычныя вымаўляюцца як адзін доўгі зычны. Пры маўленні зычныя часам прыпадабняюцца да суседніх зычных: *hrad* [грат], *prosba* [прозба] або аглушаюцца ў канцы слоў: *súdruh* [суудрух].

У марфалогіі 10 часцін мовы. Зменныя часціны — назоўнік, прыметнік, займеннік, лічэбнік, дзеяслоў — маюць адзіночны і множны лікі, тры роды, назоўнік — 7 склонаў, адзін з іх клічны, іншыя імёны без яго — па 6 склонаў. У мужчынскім родзе адрозніваюцца скланенні адушаўлёных назоўнікаў *(chlap, hrdina)*, у прыватнасці давальны і месны склоны адзіночнага ліку (канчатак *-ovi*, як у брэсцка-пінскіх гаворках: *бáтькoвы, сэ́новэ*, нават і ў неадушаўлёных: на *сні́говэ, у гуркóвы*) і назоўнага склону множнага ліку *(-ovia)*, ад неадушаўлёных *(dub, stroj)*, у якіх давальны склон мае канчатак *-u*, месны *-e, -i, -u*, а назоўны склон множнага ліку *-y, -e*. Характэрным з'яўляецца канчатак меснага склону множнага ліку *-och* (як у беларускіх дыялектах: *у палёх, на сталох)* і творнага склону *-mi* (як беларускае *коньмі*). У назоўнікаў жаночага роду 4 прадуктыўныя тыпы скланення — 2 на *-a (žena, ulica)* і 2 *на зычны (dlaň, kosť)*, а таксама тып *gazdiná*, абмежаваны невялікім колам слоў, і словы *mat' (mater), pani.* Назоўнікі ніякага роду маюць 4 тыпы скланення *(mesto, srdce, vysvedčenie, dievča)*. Для іх характэрныя формы назоўнага склону множнага ліку з доўгай галоснай у канчатку *mestá, srdcia, dievčatá, vysvedčenia*.

Прыметнікі не маюць кароткіх форм, выключэнне: *dlžen, (ne)hoden, vinen, rád, nerád*. Скланяюцца прыметнікі паводле цвёрдага *(pekný)*, мяккага *(cudzí)* і прыналежнага *(otcov)* тыпаў. Прыналежнасць выражаецца двума спосабамі: *záhrada nášho otca* 'сад нашага бацькі' і *nášho otcova záhrada* літаральна 'нашага бацькаў сад'. Пашырана ўжыванне прыналежных форм на *-ovie* (прыналежнасць да сям'і): *Kollárovie* 'сям'я Коларавых'. Суфікс вышэйшай ступені якасных прыметнікаў *-ejši* больш прадуктыўны, чым *-ši (srdečnejši, d'alši)*. Найвышэйшая ступень утвараецца далучэннем прэфікса *naj-* да формы вышэйшай ступені.

Лічэбнік 2 мае тры родавыя формы: *dvaja* (мужчынскі род, адушаўлёны), *dva* (мужчынскі род, неадушаўлёны) і *dve* (для назоўнікаў жаночага і ніякага родаў); лічэбнікі *3* і *4* — па 2 формы: *traja, štyria* для адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду, *tri, štyri* — для мужчынскіх неадушаўлёных, жаночага і ніякага родаў. Лічэбнік *1* — у адзіночным ліку: мужчынскага *jeden*, жаночага *jedna*, ніякага роду *jedno*, а для множнага ліку формы *jedni* (мужчынскі адушаўлёны) і *jedny* (мужчынскі неадушаўлё-

ны, жаночы і ніякі роды). У лічэбніку 5 і далей своеасаблівая форма для спалучэння з адушаўлёнымі іменамі мужчынскага роду: *piati robotnici* 'пяць рабочых'. У спалучэнні з лічэбнікамі 5—99 назоўнік стаіць у родным склоне множнага ліку *(dvadsat'dva pionerov)*. Лічэбнікі *dvodsat'dva* і далей або не скланяюцца, або скланяюцца як 2, 3, 4 і пішуцца асобна: назоўны склон *dvadsati traja chlapci* — давальны *dvadsatim trom chlapcom.* Парадкавыя лічэбнікі скланяюцца, як прыметнікі.

Дзеяслоў паводле асновы цяперашняга часу мае 5 класаў, якія дзеляцца на 14 словазменных тыпаў у залежнасці ад марфемнага склада асновы. Усе дзеясловы ў 1-й асобе адзіночнага ліку маюць канчатак *-m: nesiem, beriem, robim, chytám.* Акрамя цяперашняга і будучага ў славацкай мове ёсць прошлы і даўномінулы часы. 1-я і 2-я асобы адзіночнага і множнага ліку прошлага часу ўтвараюцца спалучэннем асабовых форм цяперашняга часу дапаможнага дзеяслова *byt'* і дзеепрыметніка на -l [адпавядае бел. *-ў — рабіў*] сэнсавага дзеяслова: 1-я асоба адзіночнага ліку *(robil, -a, -o som).* Форма даўномінулага часу ўтвараецца ад формы прошлага часу дапаможнага дзеяслова *byt'* і дзеепрыметніка на *-l (-ў)* сэнсавага дзеяслова: *bol, -a, -o som robil, -a, -o* і г. д.

У славацкай мове толькі адно дзеепрыслоўе (цяперашняга часу); ужываецца пераважна ў літаратурнай мове *(chytajúc, robiac, stojac).* Ёсць дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу *(robiaci, -iaca, -iace; padajúci, -úca, úce)*, незалежнага стану прошлага часу *(spadnuvší.-všia, -všie)* і залежнага стану прошлага часу *(chytaný, -á, -é; usmiaty, -ta, -te).*

Умоўны лад цяперашняга часу *(volal, -a by som* і г. д.) выражае дзеянне, ажыццяўленне якога цяпер ці ў будучым патэнцыяльна магчымае; форма ўмоўнага ладу прошлага часу *(bol, -a by som volal, -a)* ужываецца для выражэння дзеяння, здзяйсненне якога было магчымае ў мінулым. Аналітычны незалежны стан — складаная дзеяслоўная форма, утвораная з адпаведнай формы дапаможнага дзеяслова *byt'* і дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу сэнсавага дзеяслова: цяперашні час — *som volaný* 'мяне клічуць', загадны лад — *bud' volaný* 'няхай цябе клічуць', будучы час — *budem volaný* 'мяне паклічуць', дзеепрыметнік цяперашняга часу — *súc volaný* 'будучы пакліканы', інфінітыў — *byt' volaný* 'быць кліканым', прошлы час — *bol som volaný* 'мяне паклікалі', даўномінулы час — *bol som býval volaný* 'я бываў кліканы ; умоўны лад цяперашняга часу — *bol by som volaný* 'мяне клікалі б': умоўны лад прошлага часу — *bol by som býval volaný* 'я бываў бы неаднаразова кліканы'. Зваротны незалежны стан утвараецца пры дапамозе дзеяслова са зваротным займеннікам *sa (pole sa orie* 'поле аруць'). Дарэчы часціца *sa* ужываецца і ў паўднёвабеларускіх гаворках: *наеўса.*

Аддзеяслоўныя назоўнікі, утвораныя ад зваротных дзеясловаў, як правіла, не маюць фармантаў *sa, si (hnút' sa — hnutie; želat' si — želanie)*, але калі трэба адрозніць накіраванасць дзеяння, удакладніць, ад якога дзеяслова назоўнік быў утвораны, гэтыя кампаненты захоўваюцца *(učenie sa cudzich jazykov* 'вывучэнне замежных моў' — *učenie cudzich jazykov* 'навучанне замежным мовам'; *zdokonalenie* 'удасканаленне', *zdokonalenie sa* 'самаўдасканаленне').

У славацкім сінтаксісе з 16 ст. пачаў узбагачацца галоўны сказ складанага сказа, стала развівацца сістэма злучнікаў складанага сказа. Парадак слоў у славацкім сказе адносна вольны, размяшчэнне членаў сказа матываванае, а не выпадковае. Сказ звычайна пачынаецца з асновы, зыходнага пункта выказвання (г. зн. з таго, што ўжо вядомае) і ідзе да ядра выказвання, да таго новага, што паведамляецца, якое звычайна стаіць у канцы сказа: *Lúky sú samý kvet* 'Лугі — адны краскі'. З даданых членаў сказа, апрача дапаўнення, азначэння (і прыдатка), акалічнасці, у славацкіх граматыках вылучаецца т. зв. *doplnok* 'другі выказнік', які аднначасова адносіцца да дзейніка і выказніка (*Jožko zostal uražený* 'Ежка застаўся пакрыўджаны') або да дапаўнення і выказніка *(Maca našli mrtvého* 'Мацу знайшлі мёртвым') — дапасаваны або недапасаваны (*Škereňa určili za velitel'a* 'Шкераня прызначылі за камандзіра': *Videla lekára odchádzat'* 'Яна бачыла, як доктар пайшоў'). У славацкім сінтаксісе характэрныя асаблівасці дапасавання: ***Anča*** (жаночы род) ***bolo*** (ніякі род) ***chutné dievča*** літаральна 'Анча была прыемная дзяўчына'; ***koho hlavička boli, napi sa vodičky*** літаральна 'Каго галава баліць, напіся вады'; асаблівасці зварота (як у беларускай мове): ***Mamička moja, ako ste sito rozmysleli*** літаральна 'Мамка мая, як вы гэта сабе надумаліся'; ***Pani učitel'ka povedali*** літаральна 'Пані настаўніца сказалі '; безасабовыя зваротныя канструкцыі: *Ako sa spalo*? 'Як вы выспаліся?'.

*Літ.:* Малько Р. Н. Географическая терминология чешского и словацкого языков (на общеславянском фоне). Мн., 1974; Васильева Л. И. Словацкий язык // Славянские языки. М., 1977; Мистрик Й. Грамматика словацкого языка. Братислава. 1989; Лучыц-Федарэц І. І. Аб апісанні чэшскіх і славацкіх уласных імён па-беларуску // Бел. лінгвістыка. Мн., 1985. № 27; Я г о ж. Славацкае і беларускае дыялектнае словаўтварэнне // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках. Гродно, 1986. Palkovič K., Lučyc-Fedarec I. O transkripcii z bieloruštiny // Slovenská reč. Roč. 47. 1982. № 6.

*І. І. Лучыц-Федарэц.*

# СЛАВЕНСКАЯ МОВА

Славенская мова — мова славенцаў, невялікага (каля 2 млн.) славянскага народа, што кампактна жыве на паўночным захадзе Балканскага паўвострава — у Рэспубліцы Славенія, Італіі і Аўстрыі. Славянскае насельніцтва на гэтых землях упершыню з'явілася ў 6 ст., а ў 7 ст. тут узнікла адна з першых славянскіх дзяржаў — Сáма. Аднак страта дзяржаўнасці ў 8 ст. прывяла да таго, што славенская мова шмат вякоў развівалася ва ўмовах экспансіі нямецкай, венгерскай, італьянскай і сербскахарвацкай моў. Толькі з 1945 г. славенская мова набыла статус дзяржаўнасці ў межах Югаславіі. Алфавіт на аснове лацініцы. Адзін з першых славенскіх помнікаў — Фрэйзінгенскія ўрыўкі (10—11 ст.) — сведчыць пра існаванне тут даўняй пісьмовай традыцыі. Пачынальнікам новай славенскай літаратурнай мовы стаў Прымаж Трубар, які ў 1550 г. ў Цюбінгене (Германія) надрукаваў першую кнігу на славенскай мове (Катэхізіс), а пазней пераклаў і выдаў Евангелле. Як высветлілі вучоныя, у сваёй працы ён выкарыстоўваў і «Біблію» Ф. Скарыны, якая была ў яго бібліятэцы. Пераклад Біблії на славенскую мову і яе выданне ажыццявіў у 1584 г. Юры Далмацін. Выключную ролю ў развіцці славенскай мовы адыграла першая славенская граматыка Адама Бахорыча, выдадзеная ў той самы час. Росквіт літаратурнай мовы ў 19 ст. звязаны з імем паэта-класіка Францэ Прэшарна.

Славенская мова адносіцца да паўднёваславянскіх моў і мае з імі шэраг супольных рыс (няпоўнагалоссе, супадзенне *і* з *у*, звужэнне ці поўная страта проціпастаўлення па цвёрдасці / мяккасці і інш.) Дастаткова характэрны і спецыфічныя з'явы: пераход праславянскага*$dj>j$ *(meja* 'мяжа'); *ž* у некаторых пазіцыях перайшло ў *r* (т. зв. ратацызм: *moreš* 'можаш'); злучнік **i* мае форму *in*.

Асаблівасцю фанетыкі славенскай мовы з'яўляецца складаная сістэма галосных, дзе проціпастаўляюцца доўгія і кароткія гукі, якія дыферэнцыруюцца яшчэ ў залежнасці ад націску. Спецыфічны поўнагалосны *e, ê* (транскрыбіруецца як перавернутае *e:* ə) неўласцівы іншым сучасным славянскім мовам, але падобны да праславянскага рэдукаванага.

Для марфалогіі характэрна шмат архаічных рыс, у тым ліку разгорнутая сістэма скланення, дзе захаваліся формы падвойнага ліку (напрыклад, назоўны склон адзіночнага ліку *dán*, множнага *dnévi*, падвойнага ліку *dnéva* і г. д.). У дзеясловаў захавана архаічная форма супіна, якая перадае намер што-небудзь зрабіць (напры-

клад: *těčem k sosédu glédat* 'бягу да суседа паглядзець', пры інфінітыве *glédati* і падобныя), некаторыя формы прошлага часу (перфект і плюсквамперфект), а таксама формы падвойнага ліку ў спражэнні.

Асаблівасцю славенскай мовы, якая вылучае яе на фоне іншых славянскіх моў, з'яўляецца выключная дыялектная раздробленасць — налічваецца 42 дыялекты, якія аб'ядноўваюцца ў 7 дыялектных груп. Мяркуецца, што гэта вынік геаграфічных умоў (засяленне ішло па вузкіх альпійскіх далінах і рэчышчах рэк), а таксама некалькіх хваляў дазасялення. У некаторых дыялектах адзначаецца моцная рэдукцыя, што прыводзіць да поўнай страты галоснага (*bla* 'была', *žvot* 'жывот'), дыфтонгі (*hliəu̯* 'хлеў', *liəs* 'лес', *koi̯n* 'конь' і падобныя), спецыфічныя інфінітыўныя канструкцыі з прыназоўнікам *za: Imaš kaj za jesti?* 'Ці ёсць што з'есці?'. Адным з найбольш цікавых і арыгінальных з'яўляецца дыялект Рэзіі на тэрыторыі Італіі, на базе якога ёсць спробы ствараць літаратурную мікрамову. Асобную праблему складае вывучэнне славенска-беларускіх моўных сувязей, якія прыцягвалі ўвагу многіх вучоных. Яшчэ адзін з пачынальнікаў беларускай славістыкі М. Баброўскі, наведаўшы ў 1819 г. Славенію, звяртаў увагу на падабенства нацыянальнага адзення і пабудоў славенцаў і беларусаў, што магло сведчыць пра магчымую старажытную сувязь двух народаў. У прыватнасці, вучоныя адзначалі аднолькавы рэфлекс праславянскага **tj>č*, характэрны для славенскай і ўсходнеславянскіх моў (*sveča* 'свечка'). На дыялектным узроўні выяўляюцца шматлікія супадзенні як паміж значнымі масівамі, так і паміж асобнымі групамі славенскіх і беларускіх гаворак. Побач з пераходам ненаціскнога *o* у *a* (параўнаем *žaná, jáγada*), суадносным з беларускім аканнем, у славенскіх гаворках сустракаецца і так званае гіпераканне: параўнаем славенскае *aträk* = рускае *отрок*, беларускае дыялектнае *кара́ва=карова*. Акрамя характэрнага для беларускай і славенскай моў пераходу *l* у *u̯* (славенскае *volk*, вымаўляецца *vou̯k* 'воўк'), назіраецца і больш рэдкі дыялектны пераход *аў>оў*, параўнаем славенскае дыялектнае *znou̯* 'знаў', беларускае *казо́ў* 'казаў' і падобныя. Параўнаем таксама рэз'янскае *n'aha* 'яго', *koγá* 'каго', *taγá* 'таго' і мядзельскае *ягá, кагá, тагá;* рэз'янскае *bašíde* 'словы' і палескае *басёда* 'бяседа'; рэз'янскае *dan* 'адзін', *dna* 'адна', *dnoγa* 'аднаго' і магілёўскія *дзін, дна*, палескае *дного* і г. д. Адназначную інтэрпрэтацыю такім супадзенням даць цяжка. Славенскі мовазнавец Францэ Бязлай сцвярджаў, што супадзенне назваў беларускага і славенскага гарадоў *Мазыр* і *Mozirje*, што ўзыходзяць да першаснага значэння 'балота', як і іншыя падобныя з'явы, сведчаць пра міграцыю пэўных усходнеславянскіх плямён на тэрыторыю сучаснай Славеніі.

У паэтычнай форме выразіў гэтую ідэю Васіль Зуёнак у вершы «Славенія»: Вёска невялікая Славені // На зямлі, дзе Крупшчына мая,— // А якія выраслі карэнні: // За гарамі гор — Славені-я. // Без вучона-нудных канферэнцый // Па сяброўску мы гартаем час, // І гавораць нам браты-славенцы: // — Мы сюды прыйшлі адтуль — ад вас...

*Літ.:* Bezlaj F. Eseji o slovenskem jeziku. Ljubljana, 1967; Цыхун Г. Аб славенска-беларускіх моўных сыходжаннях // III. Nemzetközi szlavisztikai napok. Szombathely, 1988; Супрун А. Е. Из белорусско-словенских изолекс // Zbornik razprav iz slovanskega jezikoslovja: Tinetu Logarju ob sedemdesetletnici. Ljubljana, 1989; Мечковская Н. Б. Словенский язык. Мн., 1991.

*Г. А. Цыхун.*

## «СЛАВІЯ»

«Славія» («Slavia») — навуковы штогоднік Чэха-Славацкай Акадэміі навук (з 1.1.1993 г. Чэшскай Акадэміі навук), прысвечаны славянскай філалогіі. Выдаецца з 1922 г. Артыкулы змяшчаюцца на ўсіх славянскіх мовах і чатырох галоўных еўрапейскіх. Ён з'явіўся своеасаблівым працягам часопіса «Архіў славянскай філалогіі» («Archiv für slavische Philologie», 1876—1920), які выдаваў В. Ягіч. Першымі рэдактарамі «Славіі» былі мовавед Олдржых Гуер і літаратуразнавец Матыяш Му́рка, якія разам з вядучымі чэшскімі славістамі інфармавалі пра дасягненні славістыкі ў Чэха-Славакіі і ў іншых краінах.

Рэдакцыя часопіса з самага пачатку клапацілася пра задачы славістыкі і вызначэнне яе межаў, пра метадалагічную апрацоўку славістычных даследаванняў, пошукі новых шляхоў, пераасэнсаванне здабыткаў папярэднікаў, намагалася весці часопіс у духу новага развіцця навукі і своечасова рэагаваць на ўсе актуальныя падзеі.

У выпуску 33,1964 г. змешчаны індэкс да 1—30 выпускаў.

Як правіла, у год выходзяць 4 сшыткі выпуску, кожны з якіх мае 4 раздзелы: навукова-тэарэтычныя артыкулы; матэрыялы і дыскусіі; крытыка і рэцэнзіі; паведамленні (карэспандэнцыя даследчыкаў, юбілеі, біяграфіі, успаміны, некралогі). Шырока прадстаўлены: мовазнаўства, літаратуразнаўства, гісторыя славістыкі і ў меншай ступені — археалогія, прагісторыя і старажытнасць, гісторыя, этнаграфія, культура, права, выяўленчае мастацтва, музыка славян.

Асобныя пытанні беларускай мовы закранаюць змешчаныя ў «Славіі» артыкулы: «Яшчэ раз да пытання пра «ляшскія» рысы ў беларускай фанетыцы» І. Ваўка-Левановіча (вып. 9, 1930), «Пра развіццё кароткіх і доўгіх прыметнікаў у беларускай мове» Я. Петра (вып. 43, 1974, паводле працы М. Г. Булахава «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы XIV — XVII стагоддзяў», ч. 2, 1971); «Формы 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга і будучага простага часу ў беларускай мове» Ю. Ф. Мацкевіч (вып. 29, 1960); «Да пытання пра гісторыю беларускай мовы на падставе рукапісу Аль-Кітаб» Я. Станкевіча (вып. 12, 1933—34); «Навуковае вывучэнне беларускай мовы ў БССР у пасляваенны час» А. І. Жураўскага (вып. 30, 1961); «Кніжна-царкоўнаславянскія традыцыі ва ўкраінскай і беларускай перакладной пісьменнасці XVI — XVII ст.» (вып. 35, 1966) і «Украінізмы ў беларускай пісьменнасці XV — XVII ст.» У. В. Анічэнкі (вып. 44, 1975); «Да характарыстыкі беларускай літаратурнай мовы ў яе сучасным стане» А. Я. Міхневіча (вып. 53, 1984), а таксама «Агульнаславянскае «дзяржава» і вытворныя ад яго ў блізкароднасных рускай і беларускай мовах» А. П. Груцы (вып. 51, 1982). Этымалогія беларускіх слоў прадстаўлена ў артыкуле «Беларускае *быццам*» Ф. Копечнага (вып. 39, 1970) і іншых. Змяшчаліся таксама паведамленні Е. Ляцкага, П. Бузука і інш.

У «Славіі» рэцэнзаваліся некаторыя манаграфіі па беларускай мове: «Сынтакс беларускай мовы» Язэпа Лёсіка — І. Ваўком-Левановічам (вып. 5, 1926—27); «Працы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі» — Я. Ф. Карскім (вып. 6, 1927—28); «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» — Г. В. Амельчанкам (вып. 6, 1927—28); «Палессе: (Лінгвістыка, археалогія, тапаніміка)» — С. Уцешэным (вып. 39, 1970); «Сінтаксіс займеннікавых клітык у паўднёва-славянскіх мовах» Г. Цыхуна — В. Шаўэрам (вып. 40, 1971); «Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом» А. К. Антановіча — А. Супруном (вып. 40, 1971); «Беларуская мова для небеларусаў» А. А. Крывіцкага і іншых — Я. Петрам (вып. 44, 1975); «Беларускае народнае слова» П. У. Сцяцко — Е. Дзендзяліўскім (вып. 51, 1982) і інш.

У многіх артыкулах беларуская мова ці беларускі матэрыял прысутнічаюць разам з іншаславянскім.

*І. І. Лучыц-Федарэц.*

## «СЛАВІЯ АРЫЕНТАЛІС»

«Славія Арыенталіс» («Slavia Orientalis», «Усходняя Славія») — навуковы штоквартальнік, які выдаецца з 1952 г. ў Варшаве на польскай мове. У 1952—55 гг. меў назву «Штоквартальнік Польска-савецкага інстытута». З 1957 г. выдаецца Камітэтам славяназнаўства Польскай АН (у 1957 г. выйшаў толькі адзін нумар).

Змяшчае артыкулы, рэцэнзіі, справаздачы і паведамленні, прысвечаныя пытанням літаратуры, фальклору, мовы, гісторыі і культуры ўсходніх славян. У № 1—2 за 1987 г. даецца агульная характарыстыка і бібліяграфія прац, апублікаваных у штоквартальніку ў 1952—86 гг.

Матэрыялы па пытаннях беларускай лінгвістыкі пачалі паяўляцца ў «Славіі Арыенталіс» з 1959 г. Яны пераважна змяшчаліся ў нумарах, прысвечаных польскім моваведам-беларусістам: А. Абрэмбскай-Яблонскай (1968, № 3), Л. Асоўскаму (1980, № 1—2), С. Глінку (1990, № 3—4) і інш. Гэта былі артыкулы, рэцэнзіі і агляды прац польскіх і беларускіх даследчыкаў па пытаннях дыялекталогіі, анамастыкі, гісторыі, фразеалогіі і іншых праблемах беларускай мовы.

Артыкулы па дыялекталогіі датычаць усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны, а таксама беларускіх і польскіх дыялектаў на тэрыторыі Беларусі. Яны грунтуюцца на канкрэтным дыялектным матэрыяле і закранаюць пытанні фанетыкі (Кандрацюк М. Вакалізм беларуска-ўкраінскіх гаворак Гайнаўскага павета, 1964, № 4; Смулкова А. Замалёўка фаналагічнай сістэмы рускіх гаворак усходняй Беласточчыны, 1968, № 3; Вайтовіч Н. Аб развіцці недысімілятыўнага акання ў беларускіх гаворках, 1968, № 3; Арашонкава Г., Мацкевіч Ю. Аб беларускіх дыялектных рысах заходняга пагранічча, 1968, № 3 і інш.), акцэнтуацыі (Мацкевіч Ю., Рамановіч Я. Прыклады разнавіднасці націску ў сучасных беларускіх гаворках, 1966, № 1; Вярэніч В. Акцэнтуацыя і камбінаторыка польскай гаворкі ў Палессі, 1968, № 3), лексікі (Смулкова А. Лексічная і словаўтваральная разнастайнасць беларускіх назваў *пожні,* 1969, № 1; Лучыц-Федарэц І. Назвы элементаў столі і страхі ў палескіх гаворках, 1980, № 1—2; Мацкевіч Ю. З лексікі вёскі Асташкавічы Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці, 1990, № 3—4), польска-беларуска-літоўскіх моўных узаемаўплываў [Адамавічутэ І. Да праблемы літоўскіх беларусізмаў і паланізмаў, 1980, № 1—2; Гюлумянц К., Чэкман В. Польская гаворка ў мястэчку Відзы і ваколіцах (на беларуска-літоўскім субстраце), 1971, № 3; Паулс Д. Аб моўных кантактах у дыялекце Заходняга Палесся, 1973, № 3].

Дыялектныя матэрыялы ўключаліся і ў артыкулы па анамастыцы (Абрэмбская-Яблонская А. Ці ўкраінскі ўплыў на беларускую тапанімію? 1973, № 2; Кандрацюк М. Мясцовасці з дзвюма назвамі ў Бельскім і Гайнаўскім паветах, 1969, № 1; Яго ж. Варыянты назваў мясцовасцей у зборніку народных песень Міхала Федароўскага, 1990, № 3—4).

Артыкулы, прысвечаныя гісторыі беларускай літаратурнай мовы, закранаюць пытанні запазычанняў у старабеларускай мове (Жураўскі А. Заўвагі аб польскіх запазычаннях у мове беларускай пісьменнасці XVI—XVII ст., 1969, № 3; Булыка А. Запазычаныя назвы адзенняў і абутку ў старабеларускай мове, 1980, № 1—2), характарызуюць мову помнікаў пісьменнасці [Жураўскі А. Заўвагі аб моўных асаблівасцях дзённіка Ф. Еўлашоўскага, 1968, № 3; Звалінскі П. Найстарэйшы свецкі беларускі друк: (Антверпен 1542 г.), 1968, № 3: Ясінская Т. Невядомыя беларускія юрыдычныя тэксты 1-й паловы XVII ст., 1990, № 3—4].

Артыкулы па фразеалогіі з'яўляюцца вынікам параўнальнага аналізу некаторых груп усходнеславянскіх і польскіх фразеалагізмаў (Аксамітаў А. Беларуска-польскія ізафраземы, 1980, № 1—2; Яго ж. Аб усходнеславянска-польскіх ізафраземах, 1987, № 3—4; Яго ж. Аб адным мікраполі фразеалагічных адзінак беларускай мовы ў параўнанні з адпаведнымі польскімі і рускімі, 1990, № 3—4; Чурак М. Часавыя і прасторавыя фразеалагізмы ў гаворцы пад Гайнаўкай, 1990, № 3—4) і характарыстыкі фразеалогіі фальклору (Янкоўскі Ф. Фразеалагізмы ў IV томе «Люду беларускага» Міхала Федароўскага, 1968, № 3).

Шэраг артыкулаў прысвечаны розным пытанням сучаснай беларускай мовы, яе фанетыцы (Чэкман В. Аканне. Сутнасць з'явы і яе паходжанне, 1975, № 3), акцэнтуацыі [Аляхновіч М. Тэндэнцыі ў развіцці беларускага націску (у параўнанні з рускім націскам), 1978, № 3; Выгонная Л. Дыферэнцыруючая функцыя слоўнага націску ў беларускай літаратурнай мове, 1980, № 1—2; Шадыка С. Націск у складаных назоўніках сучаснай беларускай мовы, 1975, № 2], марфалогіі [Васілеўскі М. Дзеясловы на -ізаваць у беларускай мове (у параўнанні з другімі славянскімі мовамі), 1978, № 3; Яго ж. Пра беларускія дзеясловы з суфіксам -ірава- (у параўнанні з такімі ж утварэннямі ў рускай і іншых славянскіх мовах), 1980, № 1—2], сінтаксісу (Бурак Л. Аб структуры складанага сінтаксічнага цэлага, 1978, № 3; Яго ж. Ускладненне простага сказа далучальнымі адзінкамі, 1978, № 2; Груца А. Залежныя акалічнасныя сказы з мэтавымі адносінамі ў беларускай мове, 1966, № 3; Яго ж. Залежныя акалічнасныя сказы з часавымі адносінамі ў беларускай мове, 1968, № 1).

Значнае месца ў «Славіі Арыенталіс» займаюць рэцэнзіі польскіх аўтараў на выдадзеныя на Беларусі падручнікі, навуковыя працы па розных пытаннях гісторыі мовы, праблемах сучаснай беларускай мовы і на бібліяграфічныя даведнікі. *М. Чурак.*

## СЛАВЯНАЗНАЎСТВА

Славяназнаўства, ці славістыка,— сукупнасць гуманітарных навук, якія вывучаюць мовы, матэрыяльную і духоўную культуру, паходжанне (генезіс), гісторыю, фальклор і літаратуру старажытных і сучасных славян. Роднасць славянскіх моў — галоўная прычына ўзнікнення славяназнаўства ў канцы 18 — пачатку 19 ст. на базе параўнальна-гістарычнага мовазнаўства (кампаратывістыкі), да якога пазней далучыліся іншыя галіны філалогіі, а таксама этнаграфія, агульная гісторыя, гісторыя рэлігіі, мастацтвазнаўства. Другая прычына — моцны ўздым нацыянальна-вызваленчага і культурнага руху заходніх і паўднёвых славян, якія да таго часу не мелі сваёй дзяржаўнасці і знаходзіліся пад уладай Аўстрыйскай і Асманскай (Атаманскай) імперый.

Ва ўзнікненні славяназнаўства выключную ролю адыгралі чэх І. Добраўскі, славенец В. Копітар, рускі (па паходжанні прыбалтыйскі немец) А. Х. Вастокаў, славак П. І. Шафарык. Іх даследаванні фактычна вызначылі кола праблем славяназнаўства 19—20 ст.— мовазнаўчых (параўнальнае даследаванне славянскіх моў, гісторыя старажытнаславянскай мовы, пытанні ўзнікнення славянскага пісьменства — кірыла-мяфодзіеўская традыцыя) і літаратуразнаўчых (гісторыя славянскіх літаратур). Заснавальнікамі славянскай фалькларыстыкі сталі беларускі, украінскі і польскі збіральнік і даследчык З. Я. Даленга-Хадакоўскі (Адам Чарноцкі) і чэшскі — Ф. Л. Чалакоўскі. Славяназнаўства ў Расіі пачалося з мовазнаўчых прац М. В. Ламаносава, гістарычных — В. М. Тацішчава і М. М. Карамзіна. У 1840-я гады ўзніклі першыя славянскія кафедры ў Маскоўскім (В. М. Бадзянскі) і Пецярбургскім (П. І. Прэйс, з 1847 г. І. І. Сразнеўскі) універсітэтах. Пазней яны з'явіліся і ў Кіеўскім, Харкаўскім, Казанскім, Новарасійскім, Дэрпцкім (зараз Тартускі) і Варшаўскім універсітэтах. Важкі ўклад у развіццё славяназнаўства ўнеслі славісты Ф. Міклашыч, Ф. І. Буслаеў, А. А. Патабня, В. Ягіч, П. Ф. Фартунатаў, А. Лескін, І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ, Я. Гебаўэр, А. А. Шахматаў, Э. Бернекер, А. Мее, Л. Нідэрле, А. І. Беліч, Д. К. Зяленін, К. Машынскі, Р. І. Аванесаў, М. П. Аляксееў, Л. А. Булахоўскі, А. Ваян, А. М. Сялішчаў, М. С. Дзяржавін, Б. Гаўранак, І. Лекаў, У. Геаргіеў, Т. Лер-Сплавінскі, С. Младэнаў, Р. Нахцігал, М. Фасмер, Р. Якабсон, А. Мазон, В. Дарашэўскі і іншыя.

З сярэдзіны 19 ст. славяназнаўства пераступіла межы славянскіх краін, а ў 20 ст.— і еўрапейскіх і вызначыла-

ся як комплекс навук сусветнага значэння. Каля 20 краін Еўропы, Паўночнай Амерыкі і Аўстраліі выдаюць больш за 40 спецыялізаваных часопісаў па праблемах славяназнаўства і балта-славянскай філалогіі (сярод іх «Славяноведение», «Проблеми слов'янознавства», «Slavia»). Кафедры ці інстытуты славістыкі працуюць у шэрагу універсітэтаў свету, інстытуты — у сістэмах Акадэмій навук (Інстытут славяназнаўства і балканістыкі Расійскай Акадэміі навук).

На Беларусі славяназнаўчай праблематыкай у 19 ст. займаліся гісторыкі, археолагі і этнографы браты Я. П. і К. П. Тышкевічы, Т. Нарбут. А.-Г. Кіркор, мовавед С. П. Мікуцкі. Пачатак сучаснага навуковага беларускага славяназнаўства звязаны з імем беларускага вучонага-філолага Я. Ф. Карскага. Пасля стварэння БДУ у 1921 г. і Інбелкульта (1922, з 1.1.1929 — Акадэмія навук Беларускай ССР) гэтую працу працягвалі да разгрому ў пачатку 1930-х гг. беларускай гуманітарнай плыні гісторык У. І. Пічэта, мовазеды П. А. Бузук, І. В. Воўк-Левановіч, археолаг А. М. Ляўданскі, літаратуразнавец М. Р. Ларчанка. Узноўленае ў канцы 1950-х гг. беларускае славяназнаўства паставіла задачу актыўнага ўключэння беларускіх матэрыялаў у сістэму славістычных ведаў, што ў той час мела выключна важнае значэнне. З 1960-х гг. славяназнаўствам займаюцца калектывы вучоных у Інстытуце мовазнаўства (аддзел агульнага і славянскага мовазнаўства: В. У. Мартынаў, Г. А. Цыхун, Р. У. Краўчук, В. Л. Вярэніч і іншыя), Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (К. П. Кабашнікаў, Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей і іншыя) АН Беларусі, на кафедрах агульнага і славянскага мовазнаўства БДУ (з 1966) і Гродзенскага універсітэта (з 1980). Славістычныя інтарэсы знаходзяць сваё адлюстраванне ў працах моваведаў А. Я. Супруна (славянскае мовазнаўства), М. Г. Булахава (гісторыя славістыкі), літаратуразнаўцаў Н. С. Гілевіча, А. І. Мальдзіса, І. В. Шаблоўскай, І. А. Чароты, этнографа В. К. Бандарчыка, этналінгвіста М. П. Антропава, археолага Л. Д. Побаля, гісторыка Д. Б. Мельцара і іншых.

З 1929 г. праведзена 11 Міжнародных з'ездаў славістаў, у тым ліку 2 у СССР: 4-ы (1958, Масква) і 9-ы (1983, Кіеў). Іх арганізоўвае Міжнародны камітэт славістаў і нацыянальныя камітэты (з 1959 г.— Беларускі камітэт славістаў, старшыні П. Ф. Глебка, М. Р. Суднік, А. І. Жураўскі, І. Я. Навуменка). Пры Міжнародным камітэце славістаў існуе больш за 20 спецыялізаваных камісій, якія праводзяць пастаянную даследчую работу па розных галінах славяназнаўства; камісіі рэгулярна збіраюць нарады ў розных славянскіх краінах, у тым ліку на Беларусі. Адной з самых дзейсных з'яўляецца створаная паводле рашэння 4-га з'езда камісія па «Агульнаславянскім лінгвістычным атласе» (АЛА), актыўны ўдзел у працы над якім прымае вялікая група беларускіх моваведаў: А. І. Падлужны, А. А. Крывіцкі, Г. У. Арашонкава, Л. Ц. Выгонная і іншыя. Выдадзены 4 тамы.

У 1976 г. ЮНЕСКА стварыла Міжнародную асацыяцыю па вывучэнні і распаўсюджванні славянскіх культур (МАВРСК), у рамках якой працуе Беларускі нацыянальны камітэт МАВРСК. Увосень 1982 г. асацыяцыя наладзіла ў Мінску канферэнцыю «Славянскія культуры і сусветны культурны працэс» і правяла генеральную асамблею.

*Літ.:* Славяноведение в дореволюционной России: Биобиблиогр. словарь. М., 1979; Супрун А. Е. Введение в славянскую филологию. 2 изд. Мн., 1989; Moszynski K. Kultura ludowa slowian. Cz. I. Kultura materialna; Cz. 2. Kultura duchowa. Zesz. 1, 2. Kraków, 1929, 1934, 1939; 2 wyd. Warszawa, 1967; Horálek K. Úvod do studia slovanských jazyků. Praha, 1955. *М. П. Антропаў.*

## СЛАВЯНСКІЯ МОВЫ

Славянскія мовы — пятая па распаўсюджанасці на Зямлі сям'я моў. На іх гавораць больш за 300 млн. чалавек, у тым ліку ў славянскіх краінах — каля 260 млн. чалавек. Сярод іншых індаеўрапейскіх моўных сем'яў славянскія мовы вызначаюцца значнай блізкасцю, якая ў некаторых выпадках даходзіць да простага падабенства. Напрыклад: беларускае *лета*, рускае *лето*, украінскае *літо*, польскае *lato*, чэшскае *léto*, балгарскае *лято*. Сёння існуюць 12 славянскіх нацыянальных літаратурных жывых моў: беларуская, руская, украінская, польская, чэшская, славацкая, ніжня- і верхнялужыцкія, сербскахарвацкая, славенская, балгарская і македонская.

Непасрэдны продак сучасных славянскіх моў — агульнаславянская мова — у выніку рассялення славян у 1-м тысячагоддзі н. э. на вялікіх тэрыторыях Усходняй Еўропы і Балканскага паўвострава пачала распадацца на асобныя дыялекты, з якіх пазней сфарміраваліся славянскія мовы. Ступень блізкасці гэтых дыялектаў была неаднолькавая, што дазваляе і сёння гаварыць пра больш і менш блізкія славянскія мовы. У залежнасці ад асаблівасцей гістарычнага развіцця славянскіх моў, іх геаграфічнага месца на моўнай карце свету вызначаюць 3 славянскія моўныя групы: усходнеславянскую, заходнеславянскую і паўднёваславянскую.

Да ўсходнеславянскай групы адносяцца руская, украінская і беларуская мовы, на іх гаворыць большая частка славянскага свету. Вялікае падабенства гэтых моў абумоўлена існаваннем адзінай крыніцы паходжання — агульнаўсходнеславянскай мовы (усходнеславянскай прамовы), цеснай узаемасувяззю на працягу стагоддзяў.

Сярод агульных рыс усходнеславянскіх моў — вялікі пласт агульнай лексікі, аднолькавыя змяненні праславянскіх злучэнняў **bj, *pj, *mj*, у *bl, pl, ml* (праславянскае **zemja*→беларускае *зямля*, рускае *земля*), **tolt, *tort* (дзе *t* — любы зычны) у поўнагалосныя формы (праславянскае **goldъ* — рускае *голод*), праславянскае **dj*→*ž*, **tj*→*č* (праславянскае **medja*→беларускае *мяжа*), праяснение рэдукаваных ъ, ь у моцнай пазіцыі ў *о, е* (старажытнарускае *сънъ*→беларускае, украінскае, рускае *сон*) і некаторыя іншыя моўныя факты. Усе тры мовы карыстаюцца кірылічнай азбукай. Выдзяленне асобных моў у межах усходнеславянскай групы адбылося ў 14—15 ст. (гл. **Усходнеславянскія мовы**).

Польская, чэшская, славацкая, сербскалужыцкія і мёртвая палабская мовы складаюць заходнеславянскую групу славянскіх моў. Некаторыя даследчыкі асобнай мовай лічаць кашубскі дыялект, пашыраны на захад ад ніжняга цячэння Віслы ў Польшчы. Пасля распаду агульнаславянскай мовы не існавала адзінай мовы для ўсіх заходніх славян, таму, каб падкрэсліць неаднолькавую ступень блізкасці заходнеславянскіх моў, у межах групы іх дзеляць на 2 падгрупы: чэшска-славацкую і польска-палабска-лужыцкую (ляхіцкую). Носьбіты гэтых моў пераважна жывуць у Чэхіі, Славакіі і Польшчы. Ніжня- і верхнялужыцкай мовамі яшчэ карыстаюцца лужыцкія сербы — невялікі славянскі этнас на тэрыторыі сучаснай Германіі — раён гарадоў Баўцэн (Будышын) і Котбус (Хосебуз). Апошні носьбіт мёртвай палабскай мовы памёр у 18 ст. Сярод агульных заходнеславянскіх моўных рыс — з'яўленне мяккага губнога на месцы былых спалучэнняў губных зычных з j (праславянскае **zemja* — польскае *ziemia*), захаванне агульнаславянскіх суфіксаў **dl, *tl* (польскае *mydło*), пераход праславянскіх **dj, *tj* у *dz, c* (праславянскае **medja* — славацкае *medza*), пастаянны націск (у польскай мове — на перадапошнім, у чэшскай, славацкай і сербскалужыцкай — на першым складзе) і інш. Усе жывыя заходнеславянскія мовы карыстаюцца лацінскай азбукай (гл. **Заходнеславянскія мовы**).

Паўднёваславянскую групу складаюць балгарская, македонская, сербскахарвацкая і славенская мовы. Моўныя асаблівасці гэтай групы тлумачацца, па-першае, адасабленнем моў гэтай групы ад астатніх славянскіх моў неславянскімі тэрыторыямі, на якіх жывуць носьбіты румынскай, венгерскай, нямецкай моў. Па-другое, тым, што адзінай паўднёваславянскай мовы не існавала. Па-трэцяе, некато-

рыя моўныя факты гэтай групы ўзніклі ў межах балканскага моўнага саюзу, у які, акрамя румынскай, грэчаскай, албанскай і іншых моў, уваходзяць балгарская, македонская і асобныя дыялекты сербскахарвацкай мовы.

Паўднёваславянскую групу моў дзеляць на 2 падгрупы: усходнюю (балгарская і македонская мовы) і заходнюю (сербскахарвацкая, славенская мовы). Балгарская мова пашырана на тэрыторыі Балгарыі. Вельмі блізкая да яе македонская мова — мова асноўнага насельніцтва Македоніі (некаторыя даследчыкі, асабліва балгарскія, лічаць яе дыялектам балгарскай мовы). Балгарская і македонская мовы процістаяць астатнім славянскім мовам адсутнасцю іменнага словазмянення (т. зв. аналітызмам), іх пісьменнасць кірылічная. Славенскай мовай карыстаюцца каля 2 млн. славенцаў — жыхароў Славеніі (азбука лацінская). Сербскахарвацкая мова — чацвёртая пасля рускай, украінскай і польскай па распаўсюджанасці ў славянскім свеце. На ёй гавораць сербы — асноўнае насельніцтва Сербіі, харваты — у Харватыі, большасць насельніцтва Чарнагорыі, Босніі і Герцагавіны. Хоць паміж сербскім і харвацкім варыянтамі сербскахарвацкай мовы ёсць пэўныя лексічныя адрозненні і яны карыстаюцца рознымі азбукамі (сербы — кірыліцай, харваты — лацінкай), падстаў для вызначэння сербскай і харвацкай моў як асобных пакуль няма.

Некаторыя агульныя для паўднёваславянскіх груп моўныя рысы: пераўтварэнне агульнаславянскіх спалучэнняў *gv-, *kv- у пачатку слова ў *zv-*, *cv-* (праславянскае *gvězda→балгарскае *звезда*, праславянскае *květъ→сербскахарвацкае *цвêт*), *tort, *tolt→trat, tlat (*gordъ→балгарскае *град*), *ę→e (*pętъ→балгарскае *пет* 'пяць') і інш. (гл. **Паўднёваславянскія мовы**).

Акрамя пералічаных 12 жывых нацыянальных славянскіх літаратурных моў існуюць т. зв. славянскія літара-




Карта-схема размяшчэння славянскіх моў.

турныя мікрамовы, якія ўзнікаюць і фарміруюцца на вельмі абмежаванай тэрыторыі і характарызуюцца рэлігійнай ці палітычнай адасобленасцю ад асноўнай мовы. Напрыклад, мова невялікага славянскага этнасу некаторых раёнаў Ваяводзіны і Харватыі — русінская. Самі русіны лічаць сябе часткай украінскага народа, а ў іх мове перапляліся рысы ўкраінскай, славацкай і сербскахарвацкай моў. Да славянскіх мікрамоў часта адносяць мовы кашубскую, усходнеславацкую, ляшскую і іншыя.

Сярод мёртвых славянскіх моў (палабскай, агульнаўсходнеславянскай) асобае месца займае старажытнаславянская (старажытнабалгарская, царкоўнаславянская) мова. Гэта мова старажытных славянскіх пісьмовых помнікаў 9—11 ст.: рукапісаў перакладаў богаслужэбных кніг Кірылы і Мяфодзія, што дайшлі да нас у пазнейшых спісах. Пэўны час старажытнаславянская мова была агульнай літаратурнай мовай для ўсіх славян, яна дала пачатак развіццю асобных нацыянальных літаратурных славянскіх моў. У старажытнаславянскіх помніках ужываліся 2 славянскія азбукі — кірыліца і глаголіца (гл. **Царкоўнаславянская мова**).

Славянскія мовы ўваходзяць у склад вялікай сям'і індаеўрапейскіх моў (гл. **Індаеўрапейскія мовы**). Сярод іх найбольш блізкія славянскім балтыйскія мовы (гл. **Балтыйскія мовы**). Блізкасць гэта тлумачыцца ці захаваннем «балта-славянскай» прамовы пасля распаду індаеўрапейскай прамовы, ці працяглым кантактам славян і балтаў.

*Літ.:* Кондрашов Н. А. Славянские языки. М., 1956, Нахтигал Р. Славянские языки М., 1963; Славянские языки / Под ред. А. Г. Широковой и В. П. Гудкова. М., 1977; Историческая типология славянских языков / Под ред. А. С. Мельничука. Киев, 1986; Дуличенко А. Д. Славянские литературные микроязыки: Вопросы формирования и развития. Таллинн, 1981; Булахов М. Г., Жовтобрюх М. А., Кодухов В. И. Восточнославянские языки. М., 1987.

*А. В. Зінкевіч.*

## СЛОВА

Слова — асноўная намінатыўная адзінка, якая служыць у мове для ўтварэння сказаў з мэтай перадачы інфармацыі. Калі разглядаць як зыходную адзінку мовы сказ, то словы з'яўляюцца тымі яго галоўнымі часткамі, з дапамогай якіх мы вылучаем у сваёй свядомасці паняцці, абазначаем іх і аб'ядноўваем у межах гэтай больш буйной адзінкі мовы — сказе. Але ў любым выпадку мы ўяўляем слова як своеасаблівую вось, вакол якой упарадкоўваецца і працуе ўвесь механізм нашай мовы. Сапраўды, больш дробныя за словы адзінкі мовы (фанемы, склады, марфемы) вылучаюцца менавіта ў складзе слова, а больш буйныя (словазлучэнні, сказы) утвараюцца са слоў. Але ў некаторых мовах, напрыклад інкарпаруючых (чукоцкая, ніўхская, мовы паўночнаамерыканскіх індзейцаў, у якіх адным гукавым комплексам афармляецца цэлы сказ), паняцце «слова» не супадае з паняццем «слова» ў флектыўных мовах, да якіх належыць і беларуская, дзе кожнае слова мае свае граматычныя паказчыкі. Таму даць агульнае для ўсіх моў азначэнне слова немагчыма. Больш рацыянальным з'яўляецца характарыстыка і апісанне слова ў межах адной мовы ці групы роднасных моў. У сучасным мовазнаўстве ў сувязі з даволі паслядоўным размежаваннем мовы і маўлення вылучаюць і адпаведныя гэтым з'явам адзінкі. На лексічным узроўні вылучаецца слова, ці лексема, як моўная адзінка, якой у маўленні адпавядае словаўжыванне. Усе словы належаць да абстрактных абагульненых адзінак, кожная з якіх рэалізуецца ў маўленні цэлым шэрагам сваіх варыянтаў, ці словаўжыванняў. Апошнія прадстаўляюць тую канкрэтнасць, якую мы ўспрымаем сваімі органамі пачуццяў (слыхам, зрокам). Гэта канкрэтнасць паддаецца ў большасці выпадкаў пэўным азначэнням, таму што выражаецца матэрыяльна ў выглядзе гукаў (у вусным маўленні) ці літар і іх сукупнасцей (на пісьме). У адносінах да пісьма словаўжыванне вызначаецца звычайна як літара ці сукупнасць літар, якія знаходзяцца паміж двума прагаламі (прагалам і знакам прыпынку, знакамі прыпынку) радка тэксту. Адпаведна ў вусным маўленні словаўжываннем з'яўляецца гук ці сукупнасць гукаў, паміж якімі магчымы паўзы і нельга ўставіць іншыя гукі. Прыведзеныя азначэнні словаўжывання, зразумела, не з'яўляюцца вычарпальнымі, таму што тут улічваецца толькі фармальны бок адзінкі маўлення. Тым не менш для падзелу тэксту на словаўжыванні, на зыходныя намінатыўныя адзінкі такі падыход даволі шырока выкарыстоўваецца ў мовазнаўстве, у прыватнасці ў прыкладной лінгвістыцы. Значыць, у любым тэксце налічваецца столькі словаўжыванняў, колькі ў ім асобных літар і іх сукупнасцей, размешчаных паміж інтэрваламі тэксту. Напрыклад, у трэцяй страфе верша Янкі Купалы «За годам год» *(За бытам быт, за стогнам стогн, // За смехам смех, за сконам скон, // За векам век, за звонам звон, // За мглою мгла з усіх старон)* адзначаецца 24 словаўжыванні, якраз столькі тут літар і іх сукупнасцей паводле прынятага азначэння, што паддаецца дакладнаму падліку.

Прамежкавай адзінкай паміж словаўжываннем і словам з'яўляецца словаформа, якая аб'ядноўвае ў сваім складзе аднолькавыя словаўжыванні, якія ва ўсім супадаюць. У прыведзеным прыкладзе вылучаецца 18 словаформ, бо сем аднолькавых словаўжыванняў *за* ўтвараюць адну словаформу. Далей словаформы з адным і тым жа коранем і супадаючымі граматычным і лексічным значэннямі аб'ядноўваюцца ў больш буйныя і абстрактныя адзінкі — словы. У гэтым прыкладзе ў словы аб'ядноўваюцца адпаведна словаформы *бытам — быт, стогнам — стогн, смехам — смех, сконам — скон, векам — век, звонам — звон, мглою — мгла*, і такім чынам тут прадстаўлена ўсяго 11 розных слоў.

Прыведзены матэрыял з'яўляецца адносна лёгкім для вылучэння і словаўжыванняў, і словаформ, і слоў, але ў маўленні сустракаецца даволі шмат прыкладаў, якія не дазваляюць вырашаць вечную для мовазнаўства праблему слова. Да такіх прыкладаў належаць несупадаючыя, або суплетыўныя, формы слоў (параўнайце: *чалавек — людзі, я — мы, ён — яго* і г. д.), розныя словаўтваральныя формы (параўнайце: *стол — столік, хата — хаціна* і г. д.), а таксама шматлікія выпадкі полісеміі слова, якую не заўсёды проста адрозніць ад аманіміі. Словаўжыванні прадстаўлены ў пісьмовых тэкстах і ў вусным маўленні, а словы ў шматлікіх філалагічных (перакладных, тлумачальных, арфаграфічных і інш.) слоўніках.

Слова разглядаецца і вывучаецца моваведамі з розных пунктаў погляду, да яго можна падыходзіць і як да адносна самастойнай адзінкі, і як да элемента моўнай сістэмы. Нашай свядомасці словы дапамагаюць вылучаць у знешняй рэчаіснасці адпаведныя прадметы, дзеянні, прыкметы, з'явы, абазначаць і абагульняць іх праз адпаведныя паняцці і адначасова даволі тонка іх чляніць. Напрыклад, агульнае паняцце аб чалавеку прадстаўлена ў беларускай мове і адпаведным словам, а чляненне гэтага паняцця з улікам нацыянальнасці, узросту, полу, прафесіі, роду заняткаў, месца жыхарства, уласнага імя і іншых характарыстык чалавека адлюстроўваецца наяўнасцю соцень і тысяч розных слоў (параўнайце: *беларус, дзед, дзяўчына, выкладчык, рабочы, мінчанін, Васіль* і г. д.).

У слова вылучаюць два бакі: план выражэння, ці знешняя форма, і план зместу, ці значэнне, унутраны бок слова. Сувязь паміж гэтымі бакамі ў пэўны перыяд існавання мовы можа быць матываванай (параўнайце словы: *снягір, падасінавік, лістапад* і да т. п.) і нематываванай (параўнайце словы: *рука, маці, зіма* і да т. п.). У першым выпадку слова мае ўнутраную форму, якая арганічна звязвае план выражэння і план зместу ў адно цэлае. Значэнне слова падзяляецца на граматычнае і лексічнае. Граматычнае значэнне ўласціва адначасова цэламу класу ці вялікай групе слоў, яно па сваёй сутнасці з'яўляецца калектыўным: так, род, лік, склон характэрны для назоўнікаў; трыванне, лад,

час, спражэнне — для дзеясловаў. Лексічнае значэнне з'яўляецца індывідуальным, яно непасрэдна суадносіцца з адпаведным паняццем, характарызуе кожнае асобнае слова, адрознівае змест кожнага слова ад іншых слоў. І элементамі сваёй формы, і элементамі зместу кожнае слова звязваецца з іншымі словамі, у выніку чаго ўтвараецца лексічная сістэма, ці слоўнікавы склад мовы, які вывучаецца ў спецыяльным раздзеле мовазнаўства — лексікалогіі.

*Літ.:* К р а с н е й В. П. Грані слова. Мн., 1986; П л о т н и к о в Б. А., Т р а й к о в с к а я В. Ф. Дихотомическая лексикология. Мн., 1989; Проблемы лексикологии: Сб. ст. Мн., 1973; Ш м е л е в Д. Н. Проблемы семантического анализа лексики. М., 1973. *Б. А. Плотнікаў.*

## СЛОВА І ПАНЯЦЦЕ

Слова (галоўная намінатыўная і структурная адзінка мовы) суадносіцца з асноўнай катэгорыяй мыслення — паняццем. Праз паняцце слова звязваецца са знешняй рэчаіснасцю і тым самым выконвае сваю намінатыўную функцыю. У аснове значэння практычна ўсіх знамянальных слоў ляжыць паняцце, у якім абагульнена адлюстроўваюцца адпаведныя прадметы і з'явы навакольнага свету. У любым выпадку слова і паняцце — катэгорыі ўзаемазалежныя, і сутнасць іх немагчыма вызначыць адно без аднаго. Арганічныя сувязі паміж імі выразна праяўляюцца ў імкненні слова як мага дакладней і паўней увасобіць у сабе адпаведнае паняцце. Эфектыўнасць нашага маўлення непасрэдна залежыць ад таго, наколькі ўдала мы выказваем свае паняцці словамі.

Зразумела, слова не служыць адзінай формай выражэння паняццяў, якія ўвасабляюцца і ў розных няслоўных знаках (параўнайце: малюнкі, схемы, формулы, музычныя ноты і інш.). Але падобныя знакі характэрны толькі для выражэння спецыфічных паняццяў, а словы здольны перадаваць думкі аб самых розных сферах жыцця і дзейнасці чалавека. Словы гнутка прыстасоўваюцца да адпаведных катэгорый мыслення. Так, для выражэння надзёных паняццяў у мове існуюць агульнаўжывальныя словы, навуковыя паняцці ўвасабляюцца ў спецыяльна выпрацаваных лексічных сродках мовы, якія называюцца тэрмінамі, для ўзвышаных і ўрачыстых паняццяў мова прадстаўляе паэтычныя, кніжныя і іншыя віды слоў.

Акрамя адзначаных супадзенняў, паміж словам і паняццем існуюць пэўныя адрозненні, што і робіць гэтыя катэгорыі прадметамі вывучэння ў розных навуках — мовазнаўстве і логіцы. Перш за ўсё цэнтральная адзінка мовы з'яўляецца па сваёй структуры двухбаковай: адзін яе бок складае план выражэння, знешняя матэрыяльная форма, другі — план зместу, унутраная, ці ідэальная, частка. Паняцце ж — гэта аднабаковая мысліцельная адзінка, у якой ёсць толькі ўстойлівая ідэальная форма існавання, а стабільнай знешняй формы практычна няма. Таму адно і тое ж паняцце можа ўвасабляцца рознымі знешнімі сродкамі. Так, паняцце адсутнасці чаго-небудзь можна выразіць словам *не*, рухамі галавы, знакам — (мінус), лічбай 0 (нуль) і інш. Знешняя форма слова і яе кампаненты вывучаюцца ў асобных раздзелах мовазнаўства (параўнайце: фанетыка, марфаналогія, марфалогія, словаўтварэнне), якія ўвогуле не аперыруюць тымі адзінкамі, што непасрэдна выражаюць паняцці. Гэта значыць, апошнія звязаны толькі з ідэальным бокам слова, які стварае план яго зместу цалкам, або з лексічным значэннем. Але нават і значэнне слова ўвасабляе ў сабе не ўсё адпаведнае паняцце, а толькі рысы, агульныя для калектыву носьбітаў мовы. Гэтым тлумачыцца наяўнасць у кожнага чалавека сваіх уласных паняццяў аб пэўных з'явах рэчаіснасці або адсутнасць такіх паняццяў, што залежыць ад яго ўзросту, вопыту, адукаванасці, прафесіі, эрудыцыі і інш. Звычайна паняцці раскрываюцца ў энцыклапедыях, спецыяльных даведніках і г. д. Значэнне слоў, якія мы выкарыстоўваем для раскрыцця і перадачы паняццяў, тлумачыцца ў філалагічных слоўніках і з'яўляецца агульным і абавязковым для ўсіх носьбітаў адной мовы. Гэта акалічнасць і робіць мову сродкам зносін паміж усімі яе носьбітамі, незалежна ад іх індывідуальных асаблівасцей, ад глыбіні і шырыні паняццяў, выпрацаваных іх жыццёвым вопытам, адукацыяй, прафесіяй, родам заняткаў і іншымі знешнімі ўмовамі.

У адных выпадках паняцце ўвасабляецца больш чым у адным слове, у другіх — слова выражае некалькі паняццяў.

Да істотнага адрознення паміж дадзенымі катэгорыямі мовы і мыслення належыць і прысутнасць у змесце практычна кожнага агульнаўжывальнага слова пры яго выкарыстанні так званых канатацый ці разнастайных дадатковых сэнсавых, пачуццёвых адценняў, якія суправаджаюць слова і выражаюць адносіны да зместу таго, хто гаворыць. Паняцце ж, з прычыны яго прыналежнасці да катэгорыі мыслення, не мае эмоцый. Апошнія ствараюць пачуццёвы свет унутранага жыцця чалавека і далучаюцца да паняццяў, перамешваюцца з імі пры ўвасабленні гэтых паняццяў у мове.

У цэлым паняцце адносіцца да інтэрнацыянальных з'яў, а словы з'яўляюцца тыповымі нацыянальнымі катэгорыямі, таму што кожная мова афармляе і выражае адну і тую ж лагічную думку ўласнымі лексічнымі сродкамі. Паняцці сістэматызуюцца ў свядомасці чалавека па змястоўных прыкметах, а словы ўпарадкоўваюцца ў розныя сістэмныя групоўкі і паводле зместу, і паводле знешняй формы, і па граматычных паказчыках, і па сферах ужывання, і па частотнасці выкарыстання, і па іншых знешніх і ўнутраных якасцях слова.

*Літ.:* К о л ш а н с к и й Г. В. Семантика слова в логическом аспекте // Язык и мышление: Сб. ст. М., 1967; П о т е б н я А. А. Мысль и язык // Потебня А. А. Эстетика и поэтика. М., 1976; Р е з н и к о в Л. О. Понятие и слово. Л., 1958. *Б. А. Плотнікаў.*

## «СЛОВА ПРА ПАХОД ІГАРАВЫ»

«Слова пра паход Ігаравы» («Слово о пълку Игоревѣ, Игоря сына Святъславля, внука Ольгова») — помнік літаратуры Кіеўскай Русі 12 ст. Прысвечаны апісанню няўдалага паходу ноўгарад-северскага князя Ігара, яго брата Усевалада, сына Уладзіміра і пляменніка Святаслава на полаўцаў — стэпавых качэўнікаў у красавіку — маі 1185 г. Сэнс літаратурнага помніка ў асуджэнні княжацкіх міжусобіц і ў закліку князёў да аб'яднання ўсіх рускіх сіл на барацьбу супраць ворагаў. У творы апісана і Нямігская бітва 1067 г. каля Мінска, і старажытны Полацк. «Слова» было напісана, відаць, пасля паходу, паміж 1187 г. і пачаткам 90-х гадоў 12 ст. Памер яго невялікі — каля 1 друкаванага аркуша. Пошукі аўтара «Слова» пакуль што не далі пэўных вынікаў. З тэксту ж помніка відаць, што ён вельмі добра арыентаваўся ў палітычных абставінах часу, быў высокаадукаваным чалавекам.

Помнік выяўлены ў складзе рукапіснага зборніка 1-й палавіны 16 ст. (зберагаўся ў Яраслаўлі), набытага каля 1792 г. збіральнікам старажытнасцей графам А. І. Мусіным-Пушкіным. З яго была зроблена рукапісная копія для імператрыцы Кацярыны II. У 1800 г. А. І. Мусіным-Пушкіным з вучонымі архівістамі А. Ф. Маліноўскім і М. М. Бантышом-Каменскім твор быў выдадзены. У час маскоўскага пажару 1812 г. рукапісны спіс «Слова» загінуў. Таму выданне 1800 г. і кацярынінская копія застаюцца асноўнымі крыніцамі для вывучэння зместу і мовы твора (адрозненні паміж друкаваным выданнем і кацярынінскай копіяй выяўляюцца галоўным чынам у арфаграфіі).

У помніку адлюстраваны фанетычныя рысы наўгародскіх гаворак: неадрозненне гукаў *ц* і *ч*: *лучи* (луци), *русици* (русичи), *чепи* (цепи) і іншыя. Знойдзены спіс, несумненна, не ўзыходзіць непасрэдна да старажытнага арыгінала, паміж імі існавалі прамежкавыя спісы (не захаваліся) са сваімі праўкамі і памылкамі. Таму ў тэксце шмат так званых «цёмных месц», сэнс

якіх выклікаў многа спрэчак паміж пазнейшымі каментатарамі і перакладчыкамі: так, па-рознаму разумеюць сэнс фраз *Спала князю умь похоти; Владимиръ по вся утра уши закладаше въ Черниговѣ; растѣкашется мыслію по древу, бѣды его пасетъ птиць по дубію.*

Мова «Слова» па-майстэрску спалучае традыцыі вуснай народнай творчасці і элементы высокай кніжнай культуры ўсходніх славян. Яна багатая язычніцкай сімволікай, вобразамі славянскай міфалогіі.

Слоўнікавы (лексічны) склад «Слова» налічвае каля 2800 адзінак. Як быццам гэта нямнога, асабліва калі мець на ўвазе, што сюды ўключаюцца і службовыя словы—прыназоўнікі, злучнікі, выклічнікі, часціцы. Слоўнік помніка багаты ў тэматычных адносінах, ён адлюстроўвае ўсе асноўныя бакі жыцця ўсходніх славян 12 ст. Гэта: грамадска-палітычная тэрміналогія феадальнага ладу; словы, якія характарызуюць узровень ваеннай справы; назвы жывых істот, прыродных з'яў, нябесных цел, раслін і траў, водных басейнаў, рэльефу мясцовасці, часавых паняццяў, адцягненых паняццяў і іншыя; запазычанні з цюркскіх і арабскай моў.

У арфаграфіі «Слова» прыкметныя сляды так званага другога паўднёваславянскага ўплыву ў напісанні рэдукаваных галосных *ъ* і *ь* пасля плаўных *р* і *л*, што наогул было характэрна для рускага пісьменства часоў стварэння спіса: *блъванъ, длъго, млъвити, слънце, чръный.* Аснову слоўнікавага саставу складаюць агульнаславянскія і ўсходнеславянскія словы, якія захоўваюцца ва ўсіх сучасных усходнеславянскіх мовах. Значная частка старажытнарускай лексікі пазней выйшла з ужытку: *вои* 'воіны, войска', *гридница* 'памяшканне для дружыны князя', *котора* 'варожасць, разлад', *къметь* 'вопытны, умелы воін', *ногата* 'грашовая адзінка старажытнай Русі', *орьтъма* 'пакрывала, гунька', *паполома* 'пахавальнае пакрывала', *резана* 'дробная грашовая манета', *тулъ* 'калчан для стрэл' і іншыя.

Вобразнасць, мяккі лірызм і эмацыянальную напружанасць надаюць «Слову» выяўленчыя сродкі вуснапаэтычнай і літаратурна-мастацкай мовы. Гэта шматлікія фальклорныя параўнанні з назвамі звяроў і птушак у творным склоне: *Игорь князь поскочи горнастаемъ къ тростію* и *бѣлымъ гоголемъ на воду; Коли Игорь соколомъ полетѣ, тогда Влуръ влъкомъ потече*; з параўнальнымі злучнікамі *яко, акы: А поганого Кобяка изъ луку моря... яко вихрь выторже; сами скачюць, акы сѣрыи влъци въ полѣ*; пастаянныя эпітэты: *влъкъ серый, орелъ шизый, трава зеленая, море синее, поле широкое, слънце свѣтлое;* метафары з жыцця і побыту народа: *на Немизѣ снопы стелють головами, молотятъ чепи харалужными, на тоцѣ животъ кладутъ, вѣютъ душу отъ тѣла*; прыметнікі пасля назоўніка: *съ вечера до свѣта летятъ стрѣлы каленыя, гримлютъ сабли о шеломы, трещатъ копіа харалужныя въ полѣ незнаемѣ, среди земли половецкыи*; словы-сімвалы: *воронъ* 'гора', *зегзица* 'зязюля' (сум жанчыны), *лебедь* 'прыгожая дзяўчына', *соколъ* 'добры маладзец'.

Аўтар «Слова» надзвычай тонка адчуваў сэнсавыя і стылістычныя адценні слоў, ён ужываў блізказначныя словы і выразы (сінонімы): *брань, рать; усобица, крамола, котора; бѣда, напасть; туга, печаль, жалость, жалощи, тоска; буйство, буесть; жажда, смага*; пераносныя значэнні слоў: *летая умомъ подъ облакы; Копиа поютъ*; гіпербалізацыю: *То бо можеши Волгу веслы раскропити, а Донъ шеломы выльяти.*

Няпоўнагалосныя формы царкоўнага пісьменства тыпу *вранъ, врата, глава, градъ, злато, храбрый* выкарыстоўваюцца ў «Слове» пры апісанні падзей ва ўрачыстым, узнёслым тоне: *хощу главу свою приложити а любо испити шеломомъ Дону.* Суадносныя ж поўнагалосныя формы тыпу *болото, воронъ, голова* ўжываюцца, калі гаворка ідзе пра тэмы з адмоўнымі эмоцыямі: *тамо лежатъ поганыя головы половецкыя.*

Сістэма марфалагічных сродкаў «Слова» поўнасцю адпавядае стану літаратурных норм пісьменства эпохі Кіеўскай Русі. Тут найперш звяртаюць на сябе ўвагу такія марфалагічныя рысы, якія былі звычайнымі ў старажытнарускі перыяд, але пазней, у эпоху ўтварэння асобных усходнеславянскіх моў, замяніліся іншымі, навейшымі. У сістэме назоўніка выдзяляюцца формы, якія ў адзіночным ліку маюць у аснове заднеязычныя *г, к, х*, а ў назоўным склоне множнага ліку — адпаведныя свісцячыя *з, ц, с: внуци, вѣци, греци, луци, пороси, стязи.* Канчатку *-ы* назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне множнага ліку ў сучасных усходнеславянскіх мовах адпавядае канчатак *-ами(-амі): самъ подъ чрълеными щиты на кровавѣ травѣ притрепанъ литовскими мечи; Ты бо можеши Волгу веслы раскропити, а Донъ шеломы выльяти.*

У сістэме прыметнікаў кароткія (іменныя) формы выступаюць як азначэнні: *бѣла хорюговь, вѣща душа, златъ стремень, злато слово, сребрено стружіе.*

У «Слове» захаваліся звычайныя для старажытнарускай мовы таго часу формы дзеяслова 2-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу з канчаткам *-ши (гремлеши, можеши, стоиши, сѣдиши): Стоиши на борони, прыщеши на вои стрѣлами, гремлеши о шеломы мечи харалужными.* Спецыфічныя для той эпохі дзеяслоўныя формы прошлага часу — аорыст, імперфект, перфект і плюсквамперфект. Апавядальным стылем помніка выклікаецца асабліва частае ўжыванне форм аорыста і імперфекта ў 3-й асобе абодвух лікаў, семантыка-граматычнае значэнне якіх дакладна размяжоўваецца. Аорыст тыпу *занесе, наведе, поѣха, бишася, падоша, полегоша* служыць для абазначэння мінулага дзеяння, аднаразовага, нерасчлененага на паасобныя моманты; *Тогда въступи Игорь князь въ златъ стременъ и поѣха по чистому полю.* Формы ж імперфекта тыпу *коваше, пояше, хотяше, коваху, рокотаху* выкарыстоўваюцца для абазначэння мінулага дзеяння без абмежавання ў часе, працяглага або паўторнага: *Тъй бо Олегъ мечемъ крамолу коваше* и *стрѣлы по земли сѣяше.* Структурнай асаблівасцю форм імперфекта з'яўляецца ўжыванне канчатка *-ть* у 3-й асобе абодвух лікаў, як у формах *помняшеть, пущашеть, растяшеть, бяхуть, говоряхуть, граяхуть: Тогда по Руской земли рѣтко ратаевѣ кикахуть, нъ часто врани граяхуть.*

Старажытная моўная сістэма помніка выяўляецца і ў паслядоўным правільным выкарыстанні форм парнага ліку ў зменных часцінах мовы — назоўніку, прыметніку, займенніку і дзеяслове пры абазначэнні дзвюх асоб, прадметаў або паняццяў: *два сокола, два солнца, або багряная стлъпа, молодая месяца, соколома, очима, кровави брезѣ.* Рэшткамі парнага ліку ў беларускай мове з'яўляюцца формы творнага склону *вачыма, плячыма.*

З пункту погляду гісторыі беларускай мовы асаблівую цікавасць маюць тыя старажытныя марфалагічныя рысы помніка, якія захаваліся ў беларускай мове ў адрозненне ад рускай, дзе яны гістарычна былі заменены іншымі, новымі. Найперш гэта змяненне заднеязычных гукаў *г* і *к* у свісцячыя ў формах меснага склону назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду: *на Немизѣ, на тоцѣ, на рѣцѣ.* У давальным склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду з мяккай асновай маюць у «Слове» канчатак *-и (по земли, къ земли)*, гэта асаблівасць і сучаснай беларускай мовы. Звычайныя для «Слова» клічныя формы назоўнікаў яшчэ і цяпер захоўваюцца ў беларускіх гаворках і са стылістычнымі мэтамі выкарыстоўваюцца ў беларускіх мастацкіх творах. У клічнай форме пры зваротах ужываюцца назвы асоб, жывых істот, неадушаўлёных прадметаў: *брате, внуче, княже, Бояне, Давыде, Игорю, соловію, туре, вѣтрѣ, Днепре, земле.* У дзеясловах выдзяляюцца формы 3-й асобы цяперашняга часу абодвух лікаў з мяккім канчаткам *-ть: звенить, зоветь, править, шумить, бѣжать, идуть, ржуть, стоять, текуть, трубять* і іншыя. Колькасна ў помніку пераважаюць формы з цвёрдым канчаткам *-тъ* тыпу *ведетъ, ждетъ, плачетъ, брешутъ, зовутъ, идутъ.* Аднак такія формы не былі ўласцівы старажытнаму

арыгіналу, з'явіліся яны ў пазнейшым спісе, калі цвёрды канчатак стаў нормай рускай літаратурнай мовы.

Адзінай граматычнай нормай у помніку выступаюць інфінітывы на *-ти* тыпу *быти, искати, испити, ковати, мостити, начати, приложити, стонати* і іншыя. Такія старажытныя формы захоўваюцца ў сучасных паўднёва-заходніх беларускіх гаворках і як стылістычны сродак выкарыстоўваюцца ў беларускіх паэтычных творах. Іх шырока ўжываюць перакладчыкі «Слова» на беларускую мову, напрыклад Я. Купала: *азіраці, біці, зірнуці, злажыці, казаці, ляцеці, шукаці* і іншыя.

І мове «Слова», і беларускаму формаўжыванню ўласцівы уніфікаваныя формы кароткіх дзеепрыметнікаў, якія па сваёй сінтаксічнай ролі набліжаюцца да дзеепрыслоўяў. Гістарычна формы тыпу *звонячи, ищучи, лелѣючи, плещучи* з'яўляюцца кароткімі дзеепрыметнікамі незалежнага стану адзіночнага ліку жаночага роду. Але ў помніку яны выкарыстоўваюцца і пры назоўніках мужчынскага роду абодвух лікаў, што пазней стала адной з характэрных рыс беларускай мовы: *Русичи великая поля чрьлеными щиты прегородиша, ищучи себѣ чти, а князю славы.*

Вельмі старажытнае паводле паходжання ўжыванне пры дзеепрыметніках прошлага часу залежнага стану роднага склону з прыназоўнікам *отъ (Тогда Игорь възрѣ на свѣтлое солнце и видѣ отъ него тьмою вся своя воя прикрыты; Поскепаны саблями калеными шеломы оварьскыя отъ тебе яръ туре Всеволоде!)*; у сучаснай беларускай мове перажыткам такой канструкцыі з'яўляюцца выразы накшталт: *Ліст перапісаны ад рукі.*

У помніку ёсць і словы, якія па сваім фанетыка-марфалагічным абліччы больш блізкія да лексікі беларускай мовы. Напрыклад, назоўнікі *древо, мати, око, оксамитъ, ратай, смага, сребро, стягъ, туга*, прыметнікі *сребреный, студеный, шизый*, дзеясловы *брехати, полонити, поскепати, разумети, цвелити* 'дражніць', прыслоўі і злучнікі *абы, велми, коли* і іншыя. Некаторыя з іх з пэўнай стылістычнай матывіроўкай ужываюцца і ў рускай мове, але ў рускіх слоўніках яны суправаджаюцца празнымі абмежавальнымі паметамі. У беларускай жа мове такія словы маюць нейтральнае значэнне, і гэтым яны зближаюцца са словамі ў помніку. Некаторыя іншыя словы помніка этымалагічна таксама звязаны з сучаснымі беларускімі лексемамі. Назоўнік *вежа* 'кібітка, шацёр' працягвае жыць у сучасным беларускім *вежа* 'высокае і вузкае збудаванне'. Корань прыслоўя *лѣпо (Не лѣпо ли ны бяшетъ, братіе, начяти старыми словесы трудныхъ повѣстій о пълку Игоревѣ)* выяўляецца ў сучасных беларускіх словах *лепей, лепш, лепшы, лепшаць, палепшаць*. Сучасная беларуская назва *зязюля* роднасная слову *зегзица* ў помніку. Лексема *сыновець (О моя сыновчя, Игорю и Всеволоде!)* захоўваецца ў беларускім дыялектным *сыновец* 'пляменнік, сын сястры або брата'.

Наяўнасць у «Слове» адзначаных граматычных і лексічных рыс, якія ад глыбокай старажытнасці захоўваюцца ў беларускай мове, у мінулым спакушала некаторых даследчыкаў звязваць паходжанне помніка з Беларуссю. У сярэдзіне мінулага стагоддзя У. Сыракомля сцвярджаў, што «Слова» напісана на старажытнай беларускай мове, а П. Бяссонаў лічыў, што аўтар помніка не дае падстаў для заключэння пра месца яго ўзнікнення на аснове моўных дадзеных. Марфалагічныя рысы «Слова», вядомыя сучаснай беларускай мове, у старажытнасці былі ўласцівыя большай частцы ўсходнеславянскай моўнай тэрыторыі. Лексічныя сродкі, якія працягваюць існаваць у беларускай мове, у вялікай колькасці выпадкаў зафіксаваны ў пісьмовых помніках старажытнарускай эпохі. У «Слоўніку-даведніку «Слова пра паход Ігаравы» слова *коли* ілюструецца 24 цытатамі з помнікаў 11—15 ст., *стягъ* — 15, *вельми* — 13, *око* — 13, *ратай* — 10. Некаторыя з такіх слоў захоўваюцца і ў рускіх гаворках і выкарыстоўваюцца ў рускай літаратурнай мове.

Пасля першай публікацыі помніка з'явілася больш за 80 празаічных і вершаваных перакладаў і пераказаў «Слова» на рускую мову, а таксама шматлікія пераклады на іншыя славянскія і неславянскія мовы. На беларускую мову помнік перакладалі М. Багдановіч, Я. Купала, М. Гарэцкі, Р. Барадулін, В. І. Дарашкевіч, М. П. Анцукевіч, Я. Крупенька, А. Вялюгін.

Шэраг паэтычных рэмінісцэнцый «Слова» — у творах М. Танка, А. Куляшова, П. Броўкі, П. Панчанкі, К. Кірэенкі і іншых.

У ліку першых даследчыкаў «Слова» — беларус З. Даленга-Ходакоўскі, пазней яго аналізавалі Я. Ф. Карскі, В. Ф. Мачульскі, М. Р. Ларчанка, Ю. С. Пшыркоў, У. М. Конан, М. Г. Булахаў, А. І. Жураўскі, В. А. Чамярыцкі і іншыя.

*Публ.:* Слово о полку Игореве. М.; Л., 1950. (Лит. памятники); Слово о полку Игореве. М., 1965; Слово о полку Игореве. М., 1983; Слова пра паход Ігаравы. Мн., 1985.

*Літ.:* Мачульскі В. Да пытання аб беларускім элеменце ў «Слове аб палку Ігаравым» // Зап. аддз. гуманіт. навук Ін-та беларускай культуры. Мн., 1929. Кн. 9. Працы класа філалогіі. Т. 2; Яго ж: «Слово о полку Игореве» и белорусское устнопоэтическое творчество // Вестн. Моск. ун-та. Сер. Филология. 1962. № 2; 1965, № 1; 1967. № 6; 1969, № 4; Майхровіч С. К. Слова аб палку Ігаравым. Мн., 1968; Виноградова В. Л. Словарь-справочник «Слова о полку Игореве». Вып. 1—6. М.; Л., 1965—84; Барадулін Р. І. З вякоў у вякі // Звязда. 1985. 22 снеж.; Яго ж: ...и вначале было «Слово» // Неман. 1985, № 4; Булахов М. Г. «Слово о полку Игореве» в литературе, искусстве, науке: Краткий энцикл. словарь. Мн., 1988; Вечна жывое «Слова»: Зб. матэрыялаў навук. канф. «Слова пра паход Ігаравы» — выдатны літ. помнік усходнеслав. культуры». Мн., 1989.

*А. І. Жураўскі, М. Г. Булахаў.*

## СЛОВАЗЛУЧЭННЕ

Словазлучэнне — свабоднае сэнсавае і фармальнае аб'яднанне двух і болей паўназначных слоў, напрыклад: *ранняя вясна, ісці полем, па-ранейшаму спакойны, нехта з нас, вялікія і малыя азёры Беларусі.* У адрозненне ад сказа словазлучэнне не мае прэдыкатыўнага значэння, не ўтварае закончанага выказвання, г. зн. яму не ўласцівы катэгорыі часу, ладу, асобы і мадальнасці. У маўленні словазлучэнне звычайна выступае ў якасці часткі паведамлення. Так, у сказе *З самага рання распагодзіўся неба прастор сіняваты* (М. Танк) вылучаюцца наступныя словазлучэнні: *прастор неба, сіняваты прастор, сіняваты прастор неба, распагодзіўся з рання, з самага рання, распагодзіўся з самага рання.* Па-за сказам словазлучэнне нельга ахарактарызаваць і ў адносінах інтанацыі.

Найбольш агульныя разрады словазлучэнняў вылучаюцца перш за ўсё на падставе колькасці аб'яднаных слоў (словазлучэнні двухслоўныя, простыя і шматслоўныя, складаныя) і тыпу адносін паміж імі (словазлучэнні спалучальныя і падпарадкавальныя). Утварэнне і ўжыванне **спалучальных** словазлучэнняў (*гарады і вёскі; слухаў, але маўчаў* і пад.) падпарадкоўваецца правілам функцыяніравання аднародных членаў сказа, і таму іх трэба разглядаць у сінтаксісе простага сказа. **Падпарадкавальныя** ж словазлучэнні — самастойная сінтаксічная праблема.

Характарыстыка падпарадкавальных словазлучэнняў складаецца з нарматыўна-граматычнай ацэнкі (на падставе заканамернасцей іх утварэння) і ацэнкі нарматыўна-камунікацыйнай (на падставе заканамернасцей іх ужывання ў сказе, у маўленні). Для паўнаты такой характарыстыкі мэтазгодна ўлічваць шэраг паказчыкаў: бінарнасць словазлучэння, фармальна-граматычную спалучальнасць слоў, марфалагічныя асаблівасці слоў, семантыка-сінтаксічную спалучальнасць кампанентаў, іх словаўтваральныя асаблівасці, віды падпарадкавальнай сувязі і сродкі падпарадкавання, парадак слоў у словазлучэнні, наяўнасць сінонімаў для пэўнага словазлучэння і магчымасці яго пераўтварэнняў, стылістычныя асаблівасці спалучаных слоў, аб'ём словазлучэн-

ня, яго сінтаксічную падзельнасць або непадзельнасць, спосабы ўскладнення, ужывальнасць, сэнсавыя асаблівасці і г. д.

Усе падпарадкавальныя словазлучэнні маюць бінарную структуру, г. зн. у іх вылучаюцца два члены — галоўны і залежны. Залежны член перадае дадатковую характарыстыку паняцця, што выражана галоўным членам. У простых падпарадкавальных словазлучэннях галоўны і залежны члены супадаюць са знамянальнымі словамі (або іх адпаведнымі словаформамі), напрыклад: *стары ясень, набліжэнне зімы, ліст ад маці.* Ранг члена словазлучэння вызначаецца напрамкам падпарадкавання, параўнайце: *чытаць → кнігу* і *прачытаная ← кніга, мудры ← чалавек* і *мудрасць → чалавека, кветкі → для маці* і *маці → з кветкамі, сем → бяроз* і *сёмая ← бяроза.*

Галоўны член простага словазлучэння можа быць выражаны словамі, якія належаць да любой з шасці знамянальных часцін мовы. Адпаведна вылучаюцца 6 асноўных тыпаў падпарадкавальных словазлучэнняў: назоўнікавыя *(хата за ракой, дубы-волаты)*, прыметнікавыя *(поўны захаплення, гатовы спрачацца)*, займеннікавыя *(штосьці загадкавае, хто з іх)*, дзеяслоўныя *(сустракаць гасцей, наблізіцца да лесу)*, прыслоўныя *(вельмі хутка, справа ад дарогі)* і лічэбнікавыя *(пяць дзён, другі злева)*.

Выбар залежнага члена словазлучэння вызначаецца ў першую чаргу фармальна — паводле прыналежнасці слова да той ці іншай часціны мовы. У беларускай мове дзейнічаюць наступныя правілы спалучэння часцін мовы: назоўнік + назоўнік, прыметнік, займеннік, дзеяслоў, прыслоўе, лічэбнік; прыметнік + назоўнік, займеннік, дзеяслоў, прыслоўе; займеннік + назоўнік, прыметнік, займеннік, лічэбнік; дзеяслоў + назоўнік, займеннік, дзеяслоў, прыслоўе; прыслоўе + назоўнік, займеннік, прыслоўе; лічэбнік + назоўнік, займеннік, прыслоўе, лічэбнік.

Канкрэтная рэалізацыя кожнага з 25 названых фармальна-граматычных разрадаў падпарадкавальных словазлучэнняў залежыць ад марфалагічных, семантыка-сінтаксічных (або лексіка-граматычных) і словаўтваральных асаблівасцей слоў, якія ўступаюць у сувязь. Напрыклад, да назоўнікаў далучаюцца ў якасці залежнага члена толькі паасобныя формы дзеяслова — дзеепрыметнікі, інфінітывы і зрэдку дзеепрыслоўі. У сваю чаргу трыванне дзеяслова абумоўлівае магчымасць далучэння да яго прыслоўяў толькі пэўнага тыпу і пэўнай семантыкі, параўнайце: *часта сустракацца, нечакана сустрэцца,* але **часта сустрэцца* (тут і далей зорачкай пазначаны словазлучэнні, якія не з'яўляюцца нарматыўнымі). Такіх правіл, або граматычных і семантычных норм, у мове дастаткова многа. Іх поўнае і дакладнае апісанне — найважнейшая задача тэорыі словазлучэння.

Словазлучэнні могуць аб'ядноўвацца ў серыі, або рады, звязаныя з аднолькавай тоеснасцю іх зместу пры адрозненні фармальна-граматычнай будовы, напрыклад: *прыгожы краявід — прыгажосць краявіду, чытаць кнігу — чытанне кнігі* і пад. Такія трансфармацыйныя варыянты выконваюць у сказах розныя сінтаксічныя функцыі.

У беларускай мове выкарыстоўваюцца тры асноўныя спосабы падпарадкавання: дапасаванне, кіраванне і прымыканне. Сродкамі выражэння падпарадкавання служаць флексіі, службовыя словы (прыназоўнікі), словапарадак і інтанацыя (звычайна ў кантэксце).

Многія простыя падпарадкавальныя словазлучэнні маюць сінанімічныя канструкцыі: *спрэчкі між сяброў — спрэчкі між сябрамі, парашкі ад кашлю — парашкі супраць кашлю, гукі ночы — начныя гукі, дзедаў капялюш — капялюш дзеда, пачаць працаваць — пачаць працу.* Колькасць тыпаў сінанімічных адносін значна павялічыцца, калі выйсці за межы двухчленных словазлучэнняў: *чорнабароды дзяцюк — дзяцюк з чорнай барадой, ісці павольна — ісці павольнаю хадою.*

Сярод словазлучэнняў сустракаюцца і выпадкі аманіміі: *дапамога арміі, запрашэнне пісьменніка, сястра Мікалая з Бярозаўкі.* Кантэкст звычайна дае магчымасць зняць неадназначнасць і правільна зразумець граматычную і сэнсавую будову словазлучэння.

Семантыка-сінтаксічныя адносіны паміж членамі словазлучэння падзяляюцца на 5 тыпаў: суб'ектныя *(надыход вясны)*, аб'ектныя *(атрыманне пенсіі)*, азначальныя *(ліст бярозы)*, акалічнасныя *(рухацца насустрач)* і колькасныя *(мех бульбы)*. У межах кожнага тыпу ёсць шматлікія прыватныя падраздзяленні. Існуюць таксама змешаныя тыпы (аб'ектна-азначальныя, азначальна-акалічнасныя і г. д.).

Складаныя словазлучэнні, суадносныя з простымі, узнікаюць або шляхам шматступеннага лінейнага пашырэння *(новы дом — зусім новы дом — зусім новы дом брата...)*, або шляхам замены аднаго з членаў словазлучэння яго функцыянальна-семантычным эквівалентам *(чатырохпавярховы будынак — будынак у чатыры паверхі, дом адзінаццаць — дом нумар адзінаццаць, абяцаць дапамагчы — даць абяцанне аказаць дапамогу)*.

Але ў беларускай мове ёсць значная колькасць складаных падпарадкавальных словазлучэнняў, якія не суадносяцца з простымі, напрыклад: *шаша Брэст — Мінск, прынцып «падзяляй і ўладарнічай», п'еса «Апошнія суніцы ў жніўні», вёска Валова Гара, лётаць з ранку да вечара, перасоўваць з кутка ў куток* і пад.

Складаныя словазлучэнні астаюцца бінарнымі, але ў некаторых з іх залежны член можа быць сінтаксічна непадзельным, не з'яўляючыся ў той жа час фразеалагізмам, напрыклад: *дзяўчынка з блакітнымі вачанятамі (*дзяўчынка з вачанятамі), ісці павольнаю хадою (*ісці хадою), паслаць пяць тэлеграм (*паслаць пяць)* і пад.

Сінтаксічная будова сказа і тэксту больш складаная, чым структура словазлучэння. У тэксце дзейнічаюць свае заканамернасці, адбываюцца свае працэсы, пад уплывам якіх ускладняюцца падпарадкавальныя сувязі, перабудоўваецца словапарадак у словазлучэннях, відазмяняюцца сінтаксічныя адносіны. Да такіх «тэкставых» працэсаў можна аднесці адасабленне, інверсію, парцэляцыю, далучэнне, эліпсіс, кандэнсацыю, кантамінацыю, падваенне і інш. Так, ва ўрыўку тэксту *У катлаван зайшоў камандзір гарматы, убачыў мяне, крыва ўсміхнуўся: «Раман пішаш?» Я сумеўся. «Не. Пісьмо. Жонцы»* (І. Шамякін) бачым інтанацыйны разрыў (парцэляцыю) словазлучэння *пісаць пісьмо жонцы.* У сказе *Шчаслівы, зноў вітаю я народ праслаўленых герояў* (М. Танк) прыметнік дапасуецца да займенніка *(шчаслівы... я)*, але па-за сказам такога словазлучэння не існуе.

Даўжыня простага падпарадкавальнага словазлучэння залежыць ад колькасці і структуры службовых слоў: *галінка хвоі, спаткацца на досвітку, планаваць з улікам перспектывы, працаваць у адпаведнасці з дамоўленасцю.* Складаныя ж словазлучэнні тэарэтычна могуць быць бясконцымі, паколькі існуе неабмежаваная магчымасць падпарадкавальных сувязей. Аднак існуюць стылістычныя і псіхалінгвістычныя абмежаванні даўжыні словазлучэння. Так, чым болей родных склонаў у словазлучэнні, тым лягчэй страціць яго сэнс, тым болей груваасткім, стылістычна нязграбным яно становіцца: *вымярэнне празрыстасці шкла — вымярэнне празрыстасці шкла кабіны машыніста цеплавоза...*

Усе разрады словазлучэнняў могуць сустракацца ў розных стылях мовы, але ўжываюцца яны не аднолькава часта. Так, словазлучэнні з аддзеяслоўным назоўнікам у ролі галоўнага члена больш уласцівыя літаратурна-кніжнай мове, а ў гутарковым стылі яны часта замяняюцца дзеяслоўнымі канструкцыямі, параўнайце: *Усе чакалі прыходу цягніка* і *Усе чакалі, калі прыйдзе цягнік* (або: *Усе чакалі цягніка*). Спалучэнні ж тыпу *фота-92* або *алімпіяда-96* сустракаюцца выключна ў газетна-публіцыстычным стылі.

Вельмі істотную ролю адыгрывае і чыста лексічная спалучальнасць слоў, або сэнсавыя нормы мовы. Звычайна словазлучэнне адлюстроўвае

рэальныя сувязі з'яў і прадметаў, і гэтыя сувязі абумоўліваюць прадметна-паняційную сумяшчальнасць слоў. Таму няправільнымі (хоць фармальнай няправільнасці тут няма) лічацца такія канструкцыі, як *круглы квадрат* або *сталь з драўніны*. Варта, аднак, улічваць, што мова валодае неабмежаванай магчымасцю фіксаваць фантастычныя, скажоныя і іншыя ўяўленні людзей, для чаго скарыстоўвае «гульню сэнсаў», якія асабліва выразна праяўляюцца ў пераасэнсаванні слоўных спалучэнняў, напрыклад: *смаленая кабыла* 'бязглуздзіца', *падмазаць пяты* 'уцячы', *пагрэць рукі* — і ў прамым значэнні, і 'пажывіцца'.

Варта падкрэсліць, што менавіта сінтаксіс словазлучэння складае адметнасць мовы, у той час як сінтаксіс сказа ў роднасных мовах аказваецца амаль тоесным.

*Літ.:* Міхневіч А. Я. Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ў беларускай мове. Мн., 1965; Наркевіч А. І. Сістэма словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове: Структурна-семантыч. апісанне. Мн., 1972. *А. Я. Міхневіч.*

## СЛОВАСКЛАДАННЕ

У марфалагічным спосабе словаўтварэння ў беларускай мове асобнае месца належыць словаскладанню — утварэнню слоў шляхам складання двух ці больш слоў або ўтваральных асноў. Сама лексема *словаскладанне*, утвораная з асноў двух слоў, якія з'яўляюцца адначасова ўтваральнымі — *слов-а-складанн-(е)* ад *складанн-(е) слоў-(∅)* — добра ілюструе сэнс і сутнасць такога словаўтварэння. Утвораныя гэтым спосабам словы адпаведна называюцца складанымі і маюць у сваёй структуры дзве (радзей больш) утваральныя асновы: *агульнанародны, ваенна-паветраны, сацыяльна-эканамічны, народнагаспадарчы, знешнегандлёвы* і г. д.

Словаскладанне як спосаб словаўтварэння вядома беларускай мове здаўна. Даволі шырока складаныя словы прадстаўлены ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы»: *вечнославный* 'які мае вечную славу', *водоносный* 'прызначаны для нашэння вады', *водоносъ* 'вядро або збан для вады', *добреголосный* 'мілагучны', *доборазумье* 'разважнасць', *доброписецъ* 'чалавек з добрым почыркам', *добропобедникъ* 'той. хто атрымаў перамогу ў барацьбе за веру' і іншыя.

У сучаснай беларускай мове вылучаюць складаныя словы, утвораныя шляхам складання слоў (уласна словаскладанне) і складання асноў (асноваскладанне). Пры словаскладанні аб'ядноўваюцца 2 граматычна аформленыя лексічныя адзінкі *(фабрыка-кухня, сцежкі-дарожкі, плашч-палатка, проціпастаўляць)*. Сярод іх вылучаюцца ў сваю чаргу 2 групы: раздзельнааформленыя і цэласнааформленыя (адзінааформленыя). У раздзельнааформленых складаных словах граматычныя формы словазмянення маюць абедзве часткі слова: *фабрыка-кухня, фабрыкі-кухні, фабрыкай-кухняй* і г. д.; *сцежкі-дарожкі, сцежак-дарожак, сцежкам-дарожкам* і г. д.; *дыван-самалёт, дывана-самалёта, дывану-самалёту, дыванам-самалётам* і г. д. Адна з састаўных частак апошняга слова сама з'яўляецца складаным словам: *сам-а-лёт-(∅)←сам лят(ае)*. Такім чынам, у слове *дыван-самалёт* вылучаюцца тры каранёвыя марфемы: *дыван-, сам-, лёт-*. З пункту погляду словаўтварэння гэта слова складаецца з дзвюх утваральных асноў, таму што ў слове *дыван-самалёт* частка *самалёт-* выступае як адзіная ўтваральная аснова: *лятаць→сам-а-лёт-∅-(∅)→дыван-самалёт-(∅)*. Некаторыя лінгвісты такія раздзельнааформленыя ўтварэнні лічаць не складанымі словамі, а своеасаблівымі словазлучэннямі, адзін з кампанентаў у якіх з'яўляецца прыдаткам.

Цэласнааформленыя словы маюць толькі адну, звычайна апошнюю, словазмяняльную частку: *плашч-палатка, плашч-палаткі, плашч-палатку, плашч-палаткай* і г. д. Да цэласна аформленых слоў трэба аднесці і складаныя словы, у якіх першы кампанент адносіцца да нязменнай часціны мовы, напрыклад прыслоўя: *вечназялёны, вечназялёнага, вечназялёнаму* і г. д.; *проціціск, проціціску, проціціскам; супрацьзаконнасць, супрацьзаконнасці* і г. д. Такія складаныя словы з'яўляюцца своеасаблівымі зрашчэннямі, утворанымі ад адпаведных словазлучэнняў: *вечназялёны* ад *вечна зялёны, проціціск* ад *проці ціск* і г. д. Утварэнне складаных слоў шляхам зрашчэння ў беларускай мове характэрна ў асноўным для прыметнікаў.

У сучаснай беларускай мове слоў, утвораных шляхам словаскладання, параўнальна нямнога. Значна больш шматлікая група складаных слоў, утвораных шляхам асноваскладання. Тут таксама можна выдзеліць 2 падгрупы лексем. У адной з іх частка складанага слова з'яўляецца ўтваральнай асновай, а другая — утваральным словам: *кон-е-гадоўля* ад *конь-(∅)+гадоўля; нов-а-будоўля* ад *нов-(ая) будоўля; агульн-а-народны* ад *агульн-(ы)+народны; насенн-я-сховішча* ад *сховішча* [для] *насенн-(я); шкл-о-завод* ад *завод* [па вырабе] *шкл-(а)*.

У другой падгрупе словы, утвораныя шляхам складання асноў і суфіксацыі (складанасуфіксальныя словы): *ціх-а-акіян-ск-(і)* ад *Ціх-(і) акіян-(∅), бетон-а-мяша-лк-(а)* ад *мяша-(ць) бетон-(∅), рук-а-мый-нік* ад *рук-(і) мы-(ць), трактар-а-будаўніч-(ы)* ад *трактар-(ы) будав-(аць), заходн-е-еўрапей-ск-(і)* ад *Заходн-(яя) Еўроп-(а)* і іншыя. Часта складанасуфіксальныя словы ўтвараюцца з дапамогай нулявога суфікса: *адн-а-рук-∅-(і)* ад [з] *адн-(ой) рук-(ой), доўг-а-валос-∅-(ы)* ад [з] *доўг-(імі) валас-(амі), шырак-а-плеч-∅-(ы)* ад *шырок-(ія) плеч-(ы), сен-а-кос-∅-(∅)* ад *сен-(а) кас-(іць)* і г. д.

Пры ўтварэнні слоў шляхам асноваскладання, а таксама асноваскладання і суфіксацыі звычайна ўжываюцца злучальныя галосныя (у навуковай літаратуры іх яшчэ называюць інтэрфіксамі) *-а-, -о-, -е-, -я-: пар-а-ход, снег-а-пад, лес-а-воз, звер-а-вод, неб-а-схіл, усходн-е-славянскі* і іншыя.

Злучальныя галосныя вылучаюцца ў асобны тып службовых марфем, якія злучаюць асновы ўтваральных слоў пры словаскладанні. Галосныя *-а-, -о-* ужываюцца тады, калі першая аснова заканчваецца на цвёрды зычны, а *-е-, -я-* — на мяккі зычны. Характэрна, што апошняя зычная першай асновы зыходна можа быць іншай. Пры ўтварэнні складанага слова з дапамогай інтэрфікса часам адбываюцца чаргаванні па цвёрдасці-мяккасці: *кан-а-крад-∅-(∅)* ад *конь-(∅)+крас-(ці), далёк-а-ўсходн-(і)* ад *Далёк-(і) Усход-(∅)* і іншыя. Пры гэтым трэба памятаць, што злучальная галосная *-о-* можа быць толькі пад націскам *(куро́дым, часо́піс, тэхно́лаг)* або калі на яе падае пабочны націск *(ільно́церабілка, ільно́сушылка* і г. д.). Ужыванне злучальных *-е-, -я-* ў складаных словах падпарадкоўваецца агульнаму правілу. У першым складзе перад націскам замест *-е-, -ё-* пішацца *-я-*. Параўнаем: *заходнегерма́нскі, заходнесібі́рскі, ніжнедняпро́ўскі,* але *сярэднярýскі, сярэднясýтачны, заходняпо́льскі* і г. д.

У беларускай мове складаныя словы пішуцца злітна або праз злучок. Злітнае напісанне звычайна маюць складаныя назоўнікі і прыметнікі, якія ўтвораны ад словазлучэнняў з падпарадкавальнай сувяззю *(малако вазіць→малакавоз, пяць паверхаў→пяціпавярховы)*, а таксама назоўнікі, утвораныя шляхам асноваскладання ад словазлучэнняў са злучальнай сувяззю *(жалеза* і *бетон→жалезабетон, лес* і *стэп→лесастэп)*. Назоўнікі, утвораныя шляхам словаскладання ад аналагічных словазлучэнняў, звычайна пішуцца праз злучок *(плашч* і *палатка→плашч-палатка)*. Складаныя прыметнікі, утвораныя ад словазлучэнняў са злучальнай сувяззю, як правіла, пішуцца праз злучок: *светла-зялёны* ад *светлы* і *зялёны, грамадска-палітычны* ад *грамадскі* і *палітычны, нацыянальна-вызваленчы* ад *нацыянальны* і *вызваленчы, рабоча-сялянскі* ад *рабочы* і *сялянскі* і г. д.

Не ўсе словы, у склад якіх уваходзяць дзве каранёвыя марфемы, утвораны шляхам складання. Сярод такіх слоў шмат суфіксальных утварэнняў.

Так, словы *паравозны, водаправодны, водаправодчык* і іншыя — суфіксальныя, утваральныя асновы іх — гэта асновы складаных слоў: *паравоз→паравоз-н-(ы), водаправод→водаправод-н-(ы), водаправод-чык, параход→параход-ств-(а), аднадумец→аднадум-ств-(а).*

Разнавіднасцю словаскладання з'яўляецца ўтварэнне складанаскарочаных слоў або абрэвіятур (гл. **Абрэвіятуры**).

У сучаснай беларускай мове словаскладанне з'яўляецца адным з найбольш актыўных спосабаў папаўнення слоўнікавага складу мовы. Асабліва характэрна гэта для розных галін навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі.

*Літ.:* Шакун Л. М. Словаўтварэнне. Мн., 1978; Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі. Мн., 1987. *А. А. Лукашанец.*

## СЛОВАТВОРЧАСЦЬ

Мова належыць цэлым моўным калектывам (народам, нацыям і г. д), аднак яе ўжыванне (вуснае і пісьмовае маўленне) заўсёды індывідуальнае. Таму любое выкарыстанне мовы, як вуснай, так і пісьмовай,— гэта своеасаблівая творчасць. Адным з найбольш яркіх праяўленняў моўнай творчасці трэба лічыць словатворчасць, г. зн. утварэнне слоў як самастойных моўных адзінак, якія маюць намінатыўную функцыю.

Словатворчасць у шырокім сэнсе атаясамліваецца з працэсам словаўтварэння, вынікам чаго з'яўляецца папаўненне і абагачэнне слоўнікавага складу кожнай канкрэтнай мовы. У вузкім сэнсе словатворчасць — гэта індывідуальны працэс утварэння слоў у любой канкрэтнай сітуацыі маўлення. Можна ўмоўна выдзеліць некалькі разнавіднасцей словатворчасці: калектыўная словатворчасць носьбітаў мовы; спантанная словатворчасць у працэсе маўлення; індывідуальная (аўтарская) словатворчасць; дзіцячая словатворчасць і інш.

Калектыўная словатворчасць носьбітаў мовы — гэта бесперапынны працэс папаўнення слоўнікавага складу мовы шляхам словаўтварэння. Адбываецца ён у рамках існуючых у мове словаўтваральных тыпаў і словаўтваральных мадэлей з дапамогай наяўных у мове словаўтваральных сродкаў (гл. **Словаўтварэнне, Словаўтваральная сістэма).** Звычайна кожнае слова ўтвараецца ў канкрэтнай маўленчай сітуацыі і мае свайго аўтара, а пасля замацавання ў шырокай моўнай практыцы знаходзіць адлюстраванне ў слоўніках. Аднак у большасці выпадкаў аўтарства такіх слоў не захоўваецца, таму ўвесь працэс папаўнення слоўнікавага складу мовы разглядаецца як калектыўная словатворчасць носьбітаў мовы. Найбольшую інтэнсіўнасць набываюць працэсы калектыўнай словатворчасці ў перыяды росквіту мовы, яе пашырэння ў розных сферах ужытку. Так, для беларускай мовы такім перыядам, напрыклад, з'яўляюцца 20-я гады 20 ст., якія прайшлі пад знакам шырокай беларусізацыі ўсіх сфер грамадскага жыцця беларускага народа. Менавіта ў гэты перыяд асабліва актыўна абагачаўся слоўнікавы склад беларускай мовы за кошт уласных моўных сродкаў, што знайшло адлюстраванне ў слоўніках таго часу, у творах беларускіх пісьменнікаў, у перыядычным друку. Напрыклад, першая фіксацыя слова *практыкаванне*, паводле даследавання А. Я. Баханькова, адносіцца да 1924 г. (Байкоў М. і Гарэцкі М. Практычны расійска-беларускі слоўнік), слова *саматужнік* — да 1926 г. (10-ы выпуск БНТ. Тэрміналогія права). Зразумела, што не ўсё з таго, што было створана ў 20-я гады, замацавалася ў беларускай літаратурнай мове. Частка наватвораў не была прынята моўнай практыкай, асабліва гэта характэрна для большасці штучных утварэнняў тыпу *сайгач* 'поршань', *стырчак* 'перпендыкуляр' і пад. Другая частка тагачасных наватвораў трывала ўвайшла ў слоўнікавы склад сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

1980-я гады сталі пачаткам новага адраджэння беларускай мовы. І гэта адразу ж адбілася на актывізацыі калектыўнай словатворчасці носьбітаў беларускай мовы. Вось некаторыя прыклады: *наступства* 'вынік' — утворана ад дзеяслова *наступіць* з дапамогай суфікса *-ств-(а); летнік* 'лагер летняга адпачынку для школьнікаў і дашкольнікаў' — ад назоўніка *лета* з дапамогай суфікса *-нік.* Назіраецца таксама працэс ажыўлення ўстарэлых слоў, якія часам успрымаюцца як наватворы. Напрыклад, *вернік* 'вернік', *гаспадарства* 'дзяржава' і інш.

Спантанная словатворчасць у працэсе маўлення — гэта своеасаблівы працэс параджэння слоў у кожнай маўленчай сітуацыі. Справа ў тым, што кожны носьбіт любой мовы валодае пэўным запасам лексічных адзінак, якія ён пры неабходнасці ўзнаўляе ў сваёй памяці. Аднак у моўнай памяці кожнага індывідуума замацоўваюцца і значна больш трывала пэўныя правілы словаўтварэння, г. зн. пэўныя сэнсавыя сувязі паміж адзінкамі сходнай словаўтваральнай структуры. Таму ўзнаўленне лексічных адзінак пры маўленні цесна пераплятаецца з працэсам стварэння новых слоў у адпаведнасці з гэтымі правіламі. Звычайна бывае вельмі цяжка ці нават немагчыма вызначыць мяжу паміж узнаўленнем ужо вядомых слоў і стварэннем новых слоў у працэсе маўлення. Кожны носьбіт мовы пастаянна творыць словы ў адпаведнасці з канкрэтнай сітуацыяй маўлення і патрэбнасцямі камунікацыі. Пры гэтым у кожным выпадку такой індывідуальнай словатворчасці «ствараюцца» лексічныя адзінкі, якія зусім не абавязкова з'яўляюцца новымі для моўнага калектыву ў цэлым. Вынікам індывідуальнай словатворчасці могуць быць і вядомыя ў мове словы.

Індывідуальная (аўтарская) словатворчасць звычайна звязваецца з імёнамі пісьменнікаў, паэтаў, іншых майстроў слова, калі, як правіла, захоўваецца «аўтарства» кожнага наватвора. Так, сярод аўтарскіх наватвораў выдзяляюцца лексічныя адзінкі, якія трывала ўвайшлі ў асноўны слоўнікавы склад беларускай мовы. Класічным прыкладам гэтага можа служыць слова *адлюстроўваць*, уведзенае ў моўную практыку паэтам У. Дубоўкам (Отражать — адбіваць — адлюстроўваць // Узвышша, 1927. № 6. С. 193).

Аднак часцей да аўтарскіх наватвораў адносяць такія лексемы, якія захоўваюць сваю навізну і «свежасць» незалежна ад тэрміну іх стварэння. Яны, як правіла, не ўваходзяць у шырокі ўжытак. Сфера іх функцыяніравання абмяжоўваецца тым кантэкстам, у якім яны выкарыстаны. Такія словы звычайна называюцца аказіяналізмамі (ад лац. occasio выпадковасць). Найчасцей яны ўтвораны з парушэннем нормаў (правілаў) словаўтварэння, якія дзейнічаюць у сучаснай мове. Прынцыповае адрозненне аказіяналізмаў ад звычайных наватвораў і патэнцыяльных слоў заключаецца перш за ўсё не ў тым, што яны звязаны з пэўнай асобай, а ў тым, што пры іх утварэнні адбываецца парушэнне законаў утварэння лексічных адзінак аналагічнай структуры. Акрамя мастацкіх твораў, аказіяналізмы шырока ўжываюцца таксама і ў перыядычным друку.

Індывідуальная (аўтарская) словатворчасць характарызуецца параджэннем 3 тыпаў лексічных адзінак: а) наватвораў, якія затым уваходзяць у асноўны слоўнікавы склад мовы; б) патэнцыяльных слоў і в) аказіяналізмаў. Так, прыклады патэнцыяльных слоў знаходзім у вершах Я. Купалы: *У вас адаб'ецца нядоля і доля, // Уздыханні, што ходзяць з сахою, з сякерай, // І холад, і голад, нядоля і воля, // І ў* ***будучнасць*** *ясну надзея і вера* (Родныя песні). Патэнцыяльным словам у прыведзеным чатырохрадкоўі з'яўляецца назоўнік *будучнасць* па аналогіі з *велічнасць, узнёслацсь.* У сучаснай беларускай літаратурнай мове назоўніку *будучнасць* адпавядае слова *будучыня.*

Тыповы ўзор аказіянальнага словаўтварэння назіраем у вершы Я. Коласа «Савось-распуснік»: *Нос чарнявы, // Хвост бялявы, // Задзірасенькі, // Кіпцік-****шчыпчык*** *// Заграбасценькі, // Лапкі-****драпкі*** *// Машастовыя... // Вушкі-****слушкі*** *// Не мыляюцца.* Словы *шчыпчык, драпкі, слушкі* створаны па ўзору *кіпцік, лапкі,*

*вушкі.* Аднак тут парушаны словаўтваральныя правілы. Калі назоўнікі *кіпцік, лапкі і вушкі* знаходзяцца ў межах словаўтваральнага тыпу назоўнік — суфіксальны назоўнік са значэннем памяншальнасці: *кіпц-(і)—кіпц-ік-(∅), лап-(а)—лап-к-(а), вух-(а) — вуш-к-(а),* то першыя 3 словы не могуць быць аднесены да гэтага ж тыпу, таму што ўтваральнай асновай для іх паслужылі не назоўнікі, а дзеясловы: *шчыпа-(ць) — шчыпчык, драпа-(ць) — драп-к-(і), слуха-(ць) — слуш-к-(і).* Менавіта такая неадпаведнасць і служыць падставай для аднясення слоў *шчыпчык, драпкі, слушкі* да разраду аказіяналізмаў.

Майстрам аказіянальнага словаўтварэння з'яўляецца паэт Р. Барадулін. У вершы «Наша мова» *(Думку* ***нашчыш*** *золкімі ўспамінамі, // Сэрца песняй жніўнаю* ***надзеіш****, // І вяхой пад цёмнымі ялінамі Белаю бярэзінкай* ***ніцееш)*** дзеясловы *нашчыць* (ад прыслоўя *нашча*), *надзеіць* (ад назоўніка *надзея*) і *ніцець* (ад назоўніка *ніць*) утвораны з парушэннем правіл словаўтварэння ў сучаснай беларускай мове, г. зн. з'яўляюцца аказіяналізмамі. Параўнаем: *ласка — лашчыць, вера — верыць, стары — старэць.*

Часцей за ўсё аказіянальная словатворчасць абумоўлена імкненнем дасягнуць большай мастацкай выразнасці твора. Акрамя мастацкай літаратуры і паэзіі, аказіяналізмы сустракаюцца і ў паўсядзённай вуснай практыцы, і ў друку.

Дзіцячая словатворчасць уяўляе сабой прыватны выпадак патэнцыяльнага і аказіянальнага словаўтварэння. Дзіця, авалодваючы мовай і адпаведна правіламі словаўтварэння, утварае «свае» лексічныя адзінкі, якія часам не адпавядаюць прынятаму ў сучаснай мове словаўжыванню. Параўнайце прыклады дзіцячых наваўтварэнняў: *жыгуліст* 'вадзіцель машыны маркі «Жыгулі»' па аналогіі з *таксіст; краншчык* 'той, хто працуе на кране' па аналогіі з *наладчык, зборшчык, зваршчык.* Дзіцячая словатворчасць — гэта праяўленне творчага авалодання мовай, яе сродкамі і словаўтваральнымі магчымасцямі.

*Літ.:* Шакун Л. М. Словаўтварэнне. Мн., 1978; Баханькоў А. Я. Развіццё лексікі беларускай мовы ў савецкі перыяд: Сацыялінгв. нарыс. Мн., 1982.

*А. А. Лукашанец.*

## СЛОВАЎТВАРАЛЬНАЯ СІСТЭМА

Словаўтваральная сістэма беларускай мовы — гэта пэўным чынам арганізаваная сукупнасць вытворных слоў. У аснову класіфікацыі вытворнай лексікі звычайна кладуцца такія параметры, як наяўнасць у вытворнага слова пэўнага словаўтваральнага фарманта і пэўнага словаўтваральнага значэння, улічваецца таксама часціна мовы як вытворнага, так і ўтваральнага слова. Такім чынам, словаўтваральная сістэма — гэта сістэма словаўтваральных сродкаў (словаўтваральных тыпаў), спосабаў і мадэлей словаўтварэння (гл. **Словаўтварэнне, Адзінкі словаўтварэння**).

Асноўнымі словаўтваральнымі сродкамі ў беларускай мове з'яўляюцца афіксы, якія класіфікуюцца (сістэматызуюцца) паводле месца ў структуры вытворнага слова, здольнасці ўтвараць словы той ці іншай часціны мовы, значэння.

Згодна з першым параметрам усе словаўтваральныя афіксы падзяляюцца на: прэфіксы (або прыстаўкі) — знаходзяцца перад утваральным словам: *еха-(ць)→пры-еха-(ць), мудр-(ы)→пра-мудр-(ы), далёк-(і)→за-далёк-(і);* суфіксы — знаходзяцца пасля ўтваральнай асновы: *бег-(чы)→бяг-ун-(∅), цёмн-(ы)→цямн-е-(ць), мядзведзь-(∅)→мядзведз-іц-(а);* постфіксы — знаходзяцца ў канцы ўтваральнага слова пасля суфікса інфінітыва або канчаткаў у асабовых формах дзеяслова і займенніка: *сцераг-(чы)→сцераг-(чы)-ся, сцераг-(у)-ся, сцераж-(эш)-ся; імча(ць)→імча-(ц)-ца, імч-(у)-ся, імч-(ыш)-ся; як-(і)-небудзь, як-(ога)-небудзь, як-(ому)-небудзь;* інтэрфіксы — злучаюць 2 утваральныя асновы пры словаскладанні: *газ-а-падобн-(ы), заходн-е-еўрапейск-(і), цёмн-а-валос-(ы), светл-а-блакіт-н-(ы), снег-а-зборшчык-(∅).* Часам інтэрфіксамі называюць і спецыфічныя структурныя адрэзкі, якія знаходзяцца паміж утваральнай асновай і ўтваральным суфіксам, напрыклад: *шліфава-(ль)-шчык-(∅), тачы-(ль)-шчык-(∅), гарком-(аў)-ск-(і).* Параўнаем: *збор-шчык-(∅), нарміроў-шчык-(∅); завад-ск-(і).* У сучаснай словаўтваральнай тэорыі элементы *-ль-, -аў-* і іншыя звычайна разглядаюцца як часткі адпаведных словаўтваральных суфіксаў *-ль/шчык-, -аў/ск-,* а суфіксы *-шчык-* і *-ль/шчык-, -ск-* і *-аў/ск-* — адпаведна як разнавіднасці адной словаўтваральнай марфемы. Па здольнасці ўтвараць словы пэўнай часціны мовы ўсе словаўтваральныя афіксы падзяляюцца на назоўнікавыя, дзеяслоўныя, прыметнікавыя і г. д. Некаторыя словаўтваральныя афіксы могуць утвараць вытворныя словы, якія належаць да розных часцін мовы, напрыклад: прыстаўкі *не-* *(высокі→не-высокі; прыяцель→не-прыяцель), супер- (сучасны→супер-сучасны, зорка→супер-зорка).*

Словаўтваральнае значэнне — адно з асноўных паняццяў сінхроннага словаўтварэння, уяўляе сабой агульнае значэнне раду аднатыпных матываваных слоў з тым самым словаўтваральным фармантам. Напрыклад, у словах *стол-ік-(∅), дом-ік-(∅), лісц-ік-(∅), кон-ік-(∅), коц-ік-(∅)* агульным з'яўляецца значэнне памяншальнасці; у словах *трактарыст-к-(а), піяніст-к-(а), скрыпач-к-(а), студэнт-к-(а), спявач-к-(а)* і іншых агульным элементам значэння выступае прыкмета асобы жаночага полу. Гэтыя агульныя кампаненты значэння ў прыведзеных радах слоў і ўяўляюць сабой словаўтваральнае значэнне фармантаў (суфіксаў), з дапамогай якіх яны ўтвораны.

Словаўтваральныя значэнні вельмі разнастайныя і з'яўляюцца больш абстрактнымі ў параўнанні з лексічнымі значэннямі слоў. Разам з тым у адпаведнасці са спецыфікай словаўтваральных значэнняў усе словаўтваральныя афіксы (фарманты) могуць быць аб'яднаны ў 3 асноўныя разнавіднасці. Транспазіцыйныя афіксы надаюць вытворнаму слову граматычную семантыку іншай часціны мовы пры фактычным захаванні агульнай лексічнай семантыкі: *прыгож-(ы) → прыгаж-осць-(∅), чорн-(ы) → чарн-ат-(а), далёк-(і)→далёк-а.* Мадыфікацыйныя афіксы пэўным чынам відазмяняюць (мадыфікуюць) семантыку ўтваральнага слова. Да мадыфікацыйных значэнняў адносяцца значэнні памяншальнасці: *хат-(а)→хат-к-(а), вуліц-(а)→вуліч-к-(а), нож-(∅)→нож-ык-(∅);* адзінкавасці: *гарох-(∅)→гарош-ын-(а), салом-(а)→салом-ін-(а);* пачынальнасці: *плака-(ць)→за-плака-(ць), крыча-(ць)→за-крыча-(ць);* недаросласці: *кот-(∅)→кац-ян-(я), зубр-(∅)→зубран-(я);* асобы жаночага полу: *брыгадзір-(∅)→брыгадзір-к-(а), началь-нік-(∅)→началь-ніц-(а)* і г. д. Як паказваюць прыклады, мадыфікацыйнае словаўтварэнне адбываецца ў межах той жа самай часціны мовы. Мутацыйныя афіксы ў спалучэнні з утваральнай асновай (утваральным словам) фарміруюць новае лексічнае значэнне: *чай-(∅)→чай-нік-(∅), піса-(ць)→пісь-м-(о), лес-(∅)→лес-авік-(∅), стар-(ы)→стар-ац-(∅), тапор-(∅)→тапар-ышч-(а)* і іншыя. Інтэрфіксы ў структуры складаных слоў маюць найбольш абстрактнае значэнне злучальнасці.

Словаўтваральныя афіксы ў беларускай мове ў залежнасці ад сваіх значэнняў могуць таксама класіфікавацца з пункту погляду мнагазначнасці (полісеміі), сінаніміі, аманіміі і антаніміі. Так, побач з адназначнымі афіксамі [напрыклад, суфіксы *-ан-(я) / -ян-(я)* са значэннем недаросласці: *ласяня, птушаня; -шчыц-(а)* са значэннем асобы жаночага полу: *шліфоўшчыца, закройшчыца*] многія афіксы могуць мець некалькі значэнняў, г. зн. з'яўляцца мнагазначнымі. Напрыклад, суфікс *-льнік-* абазначае 1) асобу, якая выконвае дзеянне, што названа ўтваральным словам: *выхава-(ць) → выхава-льнік-(∅), паруша-(ць) → паруша-льнік-(∅);* 2)

прадмет або прыладу, прызначаныя для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам: *будзі-(ць)→будзі-льнік-(∅), выключа-(ць)→выключа-льнік-(∅)* і г. д. Прыстаўка *па-* мае 3 значэнні: пачаць дзеянне, названае ўтваральным словам — *бег-(чы)→па-бег-(чы), еха-(ць)→па-еха-(ць);* ажыццявіць дзеянне ў нязначнай меры — *гавары-(ць)→па-гавары-(ць), круці-(ць)→па-круці-(ць);* ажыццявіць дзеянне, названае ўтваральным словам, на працягу некаторага часу — *апладзірава-(ць)→па-апладзірава-(ць), дзяжуры-(ць)→па-дзяжуры-(ць)* і г. д.

З другога боку, існуюць афіксы, якія супадаюць па форме, але маюць розныя значэнні (афіксы-амонімы). Параўнаем: суфікс *-к-(а)* са значэннем асобы жаночага полу *студэнт-(∅)→студэнт-к-(а), дэлегат-∅→дэлегат-к-(а)*; суфікс *-к-(а)* са значэннем памяншальнасці — *рук-(а)→руч-к-(а), яблын-(я)→яблынь-к-(а)* і суфікс *-к-(а)*, які абазначае працэс, названы ўтваральным дзеясловам — *чыта-(ць)→чыт-к-(а), рэза-(ць)→рэз-к-(а), пабялі-(ць)→пабел-к-(а).*

У сістэме беларускага словаўтварэння функцыяніруюць таксама афіксы, якія маюць тое ж самае словаўтваральнае значэнне (афіксы-сінонімы). Напрыклад, суфіксы *-к-(а), -ік-(∅)* і іншыя са значэннем памяншальнасці — *катлет-(а)→катлет-к-(а), мост-(∅)→мосц-ік-(∅), горад-(∅)→гарад-ок-(∅)* і г. д.; суфіксы *-нн-(е), -к-(а)* са значэннем працэсу — *рэза-(ць)→рэза-нн-(е)* і *рэза-(ць)→рэз-к-(а).* Некаторыя суфіксы маюць процілеглыя словаўтваральныя значэнні (суфіксы-антонімы). Параўнаем: *рук-(а)→руч-к-(а)* і *рук-(а)→руч-ышч-(а), дом-(∅)→дом-ік-(∅)* і *дом-(∅)→дам-ін-(а).*

Агульнасць словаўтваральнага фарманта, словаўтваральнага значэння, а таксама часціны мовы ўтваральнага слова абумоўліваюць аднясенне вытворных слоў да аднаго словаўтваральнага тыпу. Па здольнасці ўтвараць новыя словы адрозніваюць прадуктыўныя і непрадуктыўныя словаўтваральныя тыпы.

Існуюць розныя спосабы і адзінкі апісання словаўтваральнай сістэмы мовы. Так, у сучасных граматыках беларускай мовы словаўтваральная сістэма звычайна прадстаўлена як сукупнасць словаўтваральных тыпаў. Напрыклад, суфікс *-чык / -шчык:* 1) адназоўнікавыя назоўнікі са значэннем асобы, якая мае адносіны да таго, што названа ўтваральным словам *(паркетчык, газетчык)*; 2) дзеяслоўныя назоўнікі са значэннем асобы, якая выконвае дзеянне, названае ўтваральным словам *(дарадчык, перапісчык)*; суфікс *-льшчык*: асоба, якая выконвае дзеянне, названае ўтваральным словам *(шліфавальшчык, насільшчык)*; суфікс *-нік*: адназоўнікавыя назоўнікі са значэннем асобы, якая мае адносіны да прадмета, што названы ўтваральным словам *(ляснік, грыбнік)* і г. д.

Пры лексікаграфічным апісанні (словаўтваральныя слоўнікі) словаўтваральная сістэма беларускай мовы можа быць прадстаўлена як сукупнасць словаўтваральных гнёзд, дзе кожнае вытворнае слова мае сваё фіксаванае месца:




або як сукупнасць словаўтваральных пар, дзе да кожнага вытворнага слова, размешчанага ў алфавітным парадку, указваецца яго ўтваральнае, напрыклад: *на-цячы←*ад *цячы, на-чава-ць←*ад *ноч, на-чадзіць←*ад *чадзіць* і г. д.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962; Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Шуба П. П. Уводзіны ў граматыку беларускай мовы. Мн., 1969; Шакун Л. М. Словаўтварэнне. Мн., 1978.

*А. А. Лукашанец.*

## СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫЯ НОРМЫ

Утварэнне новых лексічных адзінак у мове або ўзнаўленне ў працэсе маўлення тых, што ўжо існуюць, адбываецца паводле пэўных правіл словаўтварэння і на ўзор адпаведных словаўтваральных марфаналагічных мадэлей (марфаналагічных асаблівасцей утварэння аднатыпных слоў). Таму, калі пад літаратурнай нормай разумець прынятыя ў моўнай практыцы адукаваных людзей правілы вымаўлення, словазмянення, словаўжывання і г. д., то словаўтваральнай нормай трэба лічыць утварэнне слоў і іх ужыванне ў строгай адпаведнасці з правіламі словаўтварэння, што існуюць у беларускай літаратурнай мове. Гэтыя правілы замацаваны словаўтваральнымі тыпамі і словаўтваральнымі марфаналагічнымі мадэлямі.

Суаднесенасць вытворнага слова з пэўным словаўтваральным тыпам забяспечвае правільнае сэнсавае ўжыванне. Напрыклад, у словаўтваральнай пары *пілот — пілотка* назоўнік *пілотка* мае значэнне 'галаўны ўбор'. Таму яно не можа быць пастаўлена ў адзін рад з назоўнікамі *марачка, трактарыстка, студэнтка* і іншымі, таксама утворанымі ад назваў асоб мужчынскага полу з дапамогай суфікса *-к-(а)*: *марак→марач-к-(а).* Слова *пілотка* ўваходзіць у склад іншага словаўтваральнага тыпу: *матрос→матрос-к-(а), каўбой→каўбой-к-(а).*

Выбар патрэбнай словаўтваральнай марфаналагічнай мадэлі ў сваю чаргу забяспечвае правільнае гукавое і графічнае афармленне вытворнага слова. Параўнаем: *француз→француз-ск-(і), Каўказ→каўказ-ск-(і), таджык→таджык-ск-(і),* але *лётчык→лётчыцкі* ад *лётчык+ск-(і), назіральнік→назіральніцкі* ад *назіральнік+ск-(і).*

Такім чынам, словаўтваральная норма рэгулюе, па-першае, утварэнне новых лексічных адзінак і, па-другое, узнаўленне пры маўленні тых, што ўжо існуюць.

Разам з тым словаўтваральная норма істотна адрозніваецца ад норм арфаэпічных, граматычных і іншых. Перш за ўсё яна не такая універсальная, больш рухомая і цесна звязана з існуючай структурай лексічнай сістэмы мовы. Словаўтваральнай норме ў ідэале маглі б адпавядаць усе словы, утварэнне якіх дапускае словаўтваральная сістэма беларускай літаратурнай мовы. Аднак сувязі, што рэальна існуюць у слоўнікавым складзе, а таксама маўленчая практыка носьбітаў мовы (узус) накладваюць абмежаванні на гэтыя магчымасці. Словаўтваральная норма ўсё гэта ўлічвае і рэгулюе патэнцыяльныя магчымасці словаўтваральнай сістэмы.

Словаўтваральная норма звязана, напрыклад, з узаемадзеяннем і канкурэнцыяй сінанімічных словаўтваральных тыпаў. Параўнаем суфіксы *-чык, -шчык-, -нік-, -льнік-, -ец, -ар, -біт: вазіць→воз-чык, нарыхтаваць→нарыхтоў-шчык, заваяваць→заваёў-нік, збіраць→збіра-льнік, касіць→кас-ец, тачыць→ток-ар, малаціць→малаць-біт.* Канкурэнцыя словаўтваральных тыпаў тут праяўляецца ў тым, што словаўтваральная сістэма беларускай мовы дапускае выкарыстанне любога з прыведзеных суфіксаў, аднак маўленчая практыка абумоўлівае ўжыванне ў кожным канкрэтным выпадку толькі пэўнага словаўтваральнага суфікса. У такіх выпадках словаўтваральная норма рэгулюе выбар пэўнага словаўтваральнага тыпу і словаўтваральнай мадэлі, але дапускае часам суіснаванне некалькіх варыянтаў, утварэнне якіх прадвызначана магчымасцямі словаўтваральнай сістэмы: *бусел→бусляня* і *буслянё, заяц→зайчаня* і *зайчанё; рэзаць→рэзка* і *рэзанне, чытаць→чытка* і *чытанне* і г. д.

Усё аказіянальнае словаўтварэнне (гл. **Словатворчасць**) з'яўляецца ў рэшце рэшт вынікам парушэння правіл словаўтварэння і словаўтваральных норм. У сваю чаргу, адступленне ад словаўтваральных норм прыводзіць да парушэння і скажэння словаўтваральных сувязей паміж словамі.

Напрыклад, зараз у перыядычным друку сустракаецца слова *выступоўца* ў значэнні і на ўзор утварэння *прамоўца*. Аднак, калі *прамоўца* ўтворана ад назоўніка *прамова* з дапамогай прадуктыўнага ў сучаснай мове суфікса *-ц-(а)*: *прамова→прамоў-ц-(а)*, то *выступоўца* можа быць суаднесена толькі з дзеясловам *выступіць (выступаць)*: *выступіць→выступ-оўц-(а)*. А суфікс *-оўц-(а)* не ўласцівы словаўтваральнай сістэме беларускай мовы.

Як і ўсе літаратурныя нормы, словаўтваральныя нормы могуць мяняцца. Толькі моўная практыка вырашае лёс таго ці іншага новага слова або запазычання, якія не адпавядаюць словаўтваральным сувязям і адносінам, што існуюць у сучаснай літаратурнай мове.

Гл. таксама **Словаўтварэнне, Словаўтваральная сістэма.**

*А. А. Лукашанец.*

## СЛОВАЎТВАРЭННЕ

Сярод розных спосабаў папаўнення слоўнікавага складу беларускай мовы адным з самых эфектыўных і пашыраных з'яўляецца словаўтварэнне, г. зн. утварэнне новых слоў ад ужо існуючых у мове лексічных адзінак з дапамогай наяўных у мове словаўтваральных сродкаў: *кніг-(а) — кніж-ачк-(а), мал-(ы)→мал-оват-(ы), еха-(ць)→ пры-еха-(ць)*. Словаўтварэннем таксама называецца раздзел навукі пра мову, які вывучае спосабы і сродкі ўтварэння слоў, сэнсавыя і структурныя адносіны паміж роднаснымі аднакарэннымі словамі, а таксама працэсы, што адбываюцца пры іх утварэнні. У сучаснай лінгвістычнай навуцы шырока ўжываюцца тэрміны «дэрывацыя» (ад. лац. derivatio) — словаўтварэнне як працэс і «дэрыватологія» — словаўтварэнне як раздзел навукі.

У словаўтварэнні цэнтральным з'яўляецца паняцце словаўтваральнай вытворнасці, або матываванасці. Згодна з гэтым паняццем усе словы ў мове падзяляюцца на невытворныя (або нематываваныя) і вытворныя (матываваныя), ці дэрываты. Словы, якія фармальна і па сэнсе выводзяцца з іншых аднакарэнных слоў, лічацца в ы т в о р н ы м і. Словы, якія не маюць такой суаднесенасці, з'яўляюцца н е в ы т в о р н ы м і. Значэнне вытворнага слова заўсёды вызначаецца шляхам спасылкі на іншае аднакарэннае слова, невытворныя словы — гэта ўмоўныя абазначэнні рэчаіснасці.

Аснова слова, якое паслужыла зыходнай базай для ўтварэння новага слова, называецца ўтваральнай (матывавальнай), а аснова ўтворанага слова — вытворнай (матываванай). Сродак, з дапамогай якога ўтвараецца новае слова, мае назву словаўтваральнага фарманта. Як правіла, аснова невытворнага слова не падзяляецца на значымыя часткі (марфемы) і супадае з коранем. Напрыклад: *лес-(∅), рук-(а), сін-(і), стар-(ы)*. Значэнне гэтых слоў нельга вывесці з якога-небудзь іншага больш простага па значэнні і структуры слова. З прыведзеным радам слоў па сваім значэнні і будове вельмі выразна суадносяцца лексемы *лясн-(ы), ручк-(а), сіне-(ць), старэньк-(і)*.

Па-першае, іх значэнне (семантыка) можа быць вытлумачана праз значэнне іншых аднакарэнных слоў: *лясны* 'які адносіцца да лесу, звязаны з лесам'; *ручка* 'маленькая рука'; *сінець* 'станавіцца сінім'; *старэнькі* 'тое, што і *стары*' з памяншальна-ласкальным адценнем. Па-другое, гэтыя лексічныя адзінкі таксама суадносяцца з адзначанымі невытворнымі словамі і па сваёй структуры, пры гэтым суаднесенасць мае пэўны кірунак ад больш простага да больш складанага: *лес-(∅)→ляс+н-(ы); рук-(а)→руч+н-(ы); сін-(і)→сін+е-(ць); стар-(ы)→стар+эньк-(і)*. Такім чынам, аснова кожнага другога слова ў разгледжаных парах па сваёй структуры складаецца з асновы першага слова (утваральнай асновы) і пэўнага словаўтваральнага элемента (фарманта). Адпаведна і семантыка вытворнага слова складаецца са значэння ўтваральнага слова і значэння словаўтваральнага фарманта. Відавочна, што першыя словы ў прыведзеных парах з'яўляюцца ўтваральнымі, а другія — вытворнымі. У якасці ўтваральных могуць выступаць не толькі невытворныя лексічныя адзінкі, але і вытворныя, напрыклад: *сіне-(ць)→па-сіне-(ць); старэ-(ць)→са-старэ-(ць)*. Параўнаем таксама: *чыта-(ць)→пра-чыта-(ць), прачытва-(ць), чыта-(ць)→чыт-ач-(∅)→чытац-к-(і); бел-(ы)→бял-і-(ць)→пабялі-(ць)→пабел-ен-(ы)*.

Структура вытворных слоў на працягу гістарычнага развіцця мовы можа мяняцца. Адпаведна мяняюцца і адносіны матываванасці паміж аднакарэннымі словамі. У сувязі з гэтым сучасная мовазнаўчая навука адрознівае сінхроннае і дыяхроннае словаўтварэнні. С і н х р о н н а е словаўтварэнне разглядае сэнсавыя і фармальныя сувязі паміж аднакарэннымі словамі на пэўным этапе развіцця мовы (напрыклад, сучасныя), сістэму словаўтваральных сродкаў, якія функцыяніруюць у той ці іншы перыяд існавання мовы. Д ы я х р о н н а е словаўтварэнне вывучае гістарычную паслядоўнасць утварэння слоў у мове і змены, якія адбываюцца ў структуры вытворных слоў у працэсе развіцця мовы. Таму сінхронная і дыяхронная інтэрпрэтацыі (тлумачэнні) словаўтваральных сувязей паміж словамі могуць не супадаць. Напрыклад, слова *сталіца* гістарычна ўтворана ад назоўніка *стол*: *стол-(∅)→стал-іц-(а)* 'стольны горад'. Значыць, пры дыяхронным падыходзе ў слове *сталіца* выдзяляецца ўтваральная аснова *стал-* і суфікс *-іц-*. У сучаснай беларускай мове сэнсавыя сувязі паміж *стол* і *сталіца* страчаны, і апошняе разглядаецца як нематываванае з нечлянімай асновай. Параўнаем таксама словы *лапа* і *лапаць* 'від абутку', якія гістарычна звязаны між сабой адносінамі словаўтваральнай матывацыі: *лап-(а)→лап-аць-(∅)*. З пункту погляду сучаснага словаўтварэння абодва словы невытворныя.

Беларуская мова характарызуецца развітай сістэмай словаўтваральных сродкаў, якія групуюцца паводле спосабаў словаўтварэння. Найбольш распаўсюджанае і разнастайнае афіксальнае словаўтварэнне, г. зн. утварэнне новых слоў з дапамогай афіксаў — службовых марфем (суфіксаў, прэфіксаў, постфіксаў і інтэрфіксаў) пры словаскладанні. Прэфіксальнае словаўтварэнне ахоплівае ўтварэнне слоў ад ужо існуючых з дапамогай прэфіксаў (прыставак). Найбольш характэрна яно для дзеясловаў і прыметнікаў і менш для назоўнікаў. У гэтым выпадку словаўтваральны прэфікс далучаецца да ўсяго ўтваральнага слова, не змяняючы яго прыналежнасці да пэўнай часціны мовы: *струга-(ць)→вы-струга-(ць), будава-(ць)→па-будава-(ць), звіне-(ць)→пра-звіне-(ць), бра-(ць)→падабра-(ць); высок-(і)→не-высок-(і), мал-(ы)→за-мал-(ы)*.

Найбольшай разнастайнасцю характарызуецца суфіксальнае словаўтварэнне. Гэта, па-першае, выражаецца ў значна больш шырокім наборы (у параўнанні з прэфіксамі) словаўтваральных суфіксаў і іх варыянтаў. Па-другое, з дапамогай суфіксаў актыўна ўтвараюцца новыя словы ўсіх часцін мовы, і ўтваральнымі асновамі для іх могуць таксама служыць розныя часціны мовы. Параўнаем утварэнне назоўнікаў ад назоўнікаў: *лес-(∅)→ляс-нік-(∅), дом-(∅)→дом-ік-(∅), стог-(∅)→стаж-ок-(∅)*; назоўнікаў ад прыметнікаў: *чорн-(ы)→чар-нат-(а), сів-(ы)→сів-ізн-(а), стар-(ы)→стар-асць-(∅)*; назоўнікаў ад дзеясловаў: *крыча-(ць)→крык-ун-(∅), вазі-(ць)→воз-чык-(∅), вучы-(ць)→вуч-ань-(∅)*; прыметнікаў ад прыметнікаў: *бел-(ы)→бел-ават-(ы), зялён-(ы)→зялён-еньк-(і), чорн-(ы)→чарн-яв-(ы)*; прыметнікаў ад дзеясловаў: *бег-(чы)→бег-л-(ы), гарэ-(ць)→гар-уч-(ы)*; прыметнікаў ад назоўнікаў: *горад-(∅)→гарад-ск-(і), рак-(а)→рач-н-(ы), мармур-(∅)→мармур-ов-(ы)*; дзеясловаў ад дзеясловаў; *бег-(чы)→бег-а-(ць), вез-(ці)→ваз-і-(ць), накапа-(ць)→накопва-(ць)*; дзеясловаў ад прыметнікаў: *вясёл-(ы)→весял-е-(ць), бел-(ы)→бял-і-(ць), чырвон-(ы)→чырван-е-(ць)*; дзеясловаў ад назоўнікаў: *жарт-(∅)→жарт-ава-(ць), гаспадар-(∅)→гаспадар-ніча-(ць)* і г. д.

Постфіксальнае словаўтварэнне характэрна практычна толькі для дзеясловаў: *вучы-(ць)→вучы-(ц)-ца, рыхтава-(ць)→рыхтава-(ц)-ца, бераг-(чы)→бераг-(чы)-ся.* Вельмі абмежавана ўтвараюцца іншыя часціны мовы, напрыклад, займеннікі (*штонебудзь, калі-сьці*).

Нярэдка пры ўтварэнні новага слова выкарыстоўваюцца адначасова прэфіксы і суфіксы, прэфіксы і постфіксы і г. д.: *пад-акон-нік-(∅), на-сцен-н-(ы), пры-гор-ак-(∅), на-гля-дзе-(ц)-ца* і інш. У гэтым выпадку гавораць пра прэфіксальна-суфіксальнае, прэфіксальна-постфіксальнае і г. д. словаўтварэнне.

Пры далучэнні словаўтваральнага суфікса да ўтваральнай асновы ў яе складзе могуць адбывацца розныя гукавыя змены: усячэнне канцавых гукаў асновы — *нагляд-(а)-(ць)→нагляд-ва-(ць)*; нарашчэнне асновы — *гну-(ць)→гнут-к-(і), мы-(ць)→мый-шчык-(∅)*; розныя чаргаванні — *год-(∅)→годз-ік-(∅), доўг-(і)→даўж-э-(ць)*. Усе гэтыя змены называюцца марфаналагічнымі, і іх вывучэннем займаецца словаўтваральная марфаналогія.

Усе разнавіднасці афіксальнага словаўтварэння, а таксама словаскладанне (гл. **Словаскладанне**) аб'ядноўваюцца ў адзін марфалагічны спосаб словаўтварэння. Гэтым спосабам утвараецца пераважная большасць слоў у беларускай мове. Акрамя марфалагічнага спосабу ў беларускай мове вядомы марфолага-сінтаксічны спосаб (пераход адной часціны мовы ў іншую): *стар-(ы)*, прыметнік→ *стар-(ы)*, назоўнік; *настаўніцкая*, прыметнік→ *настаўніцкая*, назоўнік 'пакой'; лексіка-семантычны (набыццё новага значэння словам, якое ўжо існавала ў мове): *піянер* 'першы ў якой-небудзь справе' — *піянер* 'член дзіцячай арганізацыі'; *брыгада* 'вайсковае падраздзяленне'→ *брыгада* 'група работнікаў у прамысловасці ці сельскай гаспадарцы'; *брыгадзір* 'вайсковы чын у дарэвалюцыйнай Расіі'→ *брыгадзір* 'кіраўнік брыгады'; лексіка-сінтаксічны (зліццё ў адно слова сінтаксічнага словазлучэння з захаваннем парадку слоў і іх склонавых форм): *сягоння* (з сяго дня), *трыста* (тры ста). Лексіка-сінтаксічны спосаб адносіцца пераважна да дыяхроннага словаўтварэння. Большасць слоў, утвораных з яго дапамогай, з сінхроннага пункту погляду адносяцца да невытворных.

Найбольш поўна словаўтваральныя сродкі сучаснай беларускай мовы апісаны ў акадэмічных граматыках беларускай мовы. Пытанням тэорыі беларускага словаўтварэння прысвечаны працы П. П. Шубы, Л. М. Шакуна і інш. У шэрагу прац П. У. Сцяцко, І. Я. Яшкіна і інш. даследуецца беларускае народнае словаўтварэнне. Спецыяльныя даследаванні прысвечаны вывучэнню словаўтварэння асобных часцін мовы (М. Г. Булахаў, М. С. Васілеўскі, П. П. Шуба, П. В. Вярхоў і інш.), гістарычнага словаўтварэння (М. А. Паўленка, А. І. Яновіч, М. М. Круталевіч і інш.).

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962; Шуба П. П. Уводзіны ў граматыку беларускай мовы. Мн., 1969; Шакун Л. М. Словаўтварэнне. Мн., 1978; Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985.

*А. А. Лукашанец.*

## СЛОВАЎТВАРЭННЕ ЧАСЦІН МОВЫ

Словаўтваральная сістэма беларускай мовы ахоплівае ўвесь арсенал словаўтваральных сродкаў, з дапамогай якіх утвараюцца лексічныя адзінкі знамянальных і службовых часцін мовы. Для сучаснай беларускай літаратурнай мовы найбольш характэрны марфалагічны і марфолага-сінтаксічны спосабы ўтварэння слоў. Значна вузей прадстаўлены лексіка-семантычны спосаб (гл. **Словаўтварэнне, Словаўтваральная сістэма**).

У словаўтварэнні назоўнікаў прадстаўлены суфіксальны, прэфіксальны, прэфіксальна-суфіксальны спосабы, слова- і асноваскладанне, марфолага-сінтаксічны спосаб (субстантывацыя) і некаторыя іншыя. Найбольш развітую сістэму словаўтваральных сродкаў і значэнняў мае суфіксальны спосаб словаўтварэння назоўнікаў. Вытворныя суфіксальныя назоўнікі (у тым ліку і з нулявым суфіксам) утвараюцца ад назоўнікаў [*сцян-(а)→сцен-к-(а), каров-(а)→кароў-нік-(∅)*], дзеясловаў [*вучы-(ць) → вуч-ань-(∅), руха-(ць)→рух-авік-(∅)*], прыметнікаў [*гарач-(ы)→гарач-ын-(я), бедн-(ы)→бядн-як-(∅)*], лічэбнікаў [*пяць-(∅)→пят-ак-(∅)*]. Сярод аднаназоўнікавых суфіксальных назоўнікаў значнае месца займаюць вытворныя з разнастайнымі мадыфікацыйнымі значэннямі: а) асобы жаночага полу: *спявак-(∅) — спявач-к-(а), ткач-(∅) — ткач-ых-(а)*; б) недаросласці: *заяц-(∅) — зайч-ан-(я), кот-(∅)→кац-ян-(я)*; в) памяншальнасці: *лес-(∅)→ляс-ок-(∅), мост-(∅)→мосц-ік-(∅)*; г) адзінкавасці: *гарох-(∅)→гарош-ын-(а), трав-(а)→трав-інк-(а)* і г. д. Акрамя мадыфікацыйных шматлікія назоўнікавыя суфіксы рэалізуюць самыя разнастайныя словаўтваральныя значэнні і ўтвараюць розныя лексіка-семантычныя класы вытворных слоў: *мор-(а)→мар-ак-(∅), студэнт-(∅)→студэн-цтв-(а), птушк-(а)→птуш-нік-(∅), партрэт-(∅)→партрэтыст-(∅)* і інш.

Аддзеяслоўныя суфіксальныя назоўнікі абазначаюць галоўным чынам адцягненыя дзеянні [*чыта-(ць)→чыта-нн-(е), крыча-(ць)→крык-∅-(∅)*], а таксама розныя прадметы, якія характарызуюцца дзеяннем, што названа ўтваральным словам: прыладу або прыстасаванне для выканання дзеяння: *капа-(ць)→капа-лк-(а), будзі-(ць)→будзі-льнік-(∅)*; асобу, якая выконвае дзеянне (назву па прафесіі): *шліфава-(ць)→шліфава-ль-шчык-(∅), чыта-(ць) — чыт-ач-(∅)*; памяшканне, прызначанае для ажыццяўлення дзеяння: *куры-(ць)→куры-лк-(а), сушы-(ць)→сушы-льн-(я)*; прадмет — вынік дзеяння: *струга-(ць)→струж-к-(а), падпіса-(ць)→подпіс-∅-(∅)* і г. д. Вельмі прадуктыўнымі з'яўляюцца аддзеяслоўныя суфіксы *-нн-(е), -к-(а), -лк-(а), -чык, -нік, -льнік* і некаторыя інш.

Адпрыметнікавыя суфіксальныя назоўнікі абазначаюць адцягненыя прыкметы: *чырвон-(ы)→чырвань-∅-(∅), стар-(ы)→стар-асць-(∅)*, а таксама розныя прадметы і з'явы, якія характарызуюцца прыкметай, што названа ўтваральным словам: *вялік-(і)→вя-лік-ан-(∅), пуст-(ы)→пуст-эч-(а)* і інш.

Прэфіксальнае словаўтварэнне адбываецца ўнутры адной часціны мовы, таму звычайна ў якасці словаўтваральнай базы выступае ўсё слова цалкам: *еха-(ць)→вы-еха-(ць), добр-(ы)→ня-добр-(ы), горад→пры-гарад.* У параўнанні з суфіксальнымі прыставачныя назоўнікі займаюць нязначнае месца ў словаўтваральнай сістэме беларускага назоўніка, хоць некаторыя тыпы могуць быць прадстаўлены даволі значным шэрагам вытворных. Параўнайце вытворныя назоўнікі з прэфіксамі ***анты-*** (*антытэзіс, антыцыклон*), *без- / бес-, бяз- / бяс-* (*беспарадак, бяздзейнасць*), *дыс-* (*дысгармонія, дыскамфорт*), *не-/ня-* (*непарадак, няшчасце*), *пад-* (*падзагаловак*), *пера-* (*перавыбары*), *пра-* (*праўнук*), *рэ-* (*рээвакуацыя*) і інш. Як бачым, прэфіксальнае словаўтварэнне назоўнікаў адбываецца не толькі з дапамогай спрадвечных беларускіх прыставак (*не, без-, пра-, пера-* і інш.), але і іншамоўных паводле паходжання: *рэ-, анты-, дыс-, контр-* (*контр-рэвалюцыя*).

Развіта ў беларускай мове і прэфіксальна-суфіксальнае (у тым ліку і з нулявым суфіксам) словаўтварэнне назоўнікаў: *дарог-(а)→па-дарож-нік-(∅), гар-(а)→пры-гор-ак-(∅), слуха-(ць) — не-слух-∅-(∅)* і г. д.

Марфолага-сінтаксічны спосаб словаўтварэння назоўнікаў прадстаўлены пераважна адпрыметнікавымі ўтварэннямі. Напрыклад: *стары* (прыметнік)→ *стары* (назоўнік), *галоўнае* (прыметнік)→ *галоўнае* (назоўнік). (*Трэба выдзеліць галоўнае.*)

Пра разнавіднасці складаных і складанаскарочаных назоўнікаў, а таксама прыметнікаў і інш. гл. **Словаскладанне** і **Абрэвіятуры.**

Словаўтварэнне дзеясловаў адбываецца суфіксальным, прэфіксаль-

ным, постфіксальным, прэфіксальна-суфіксальным, суфіксальна-постфіксальным і інш. спосабамі. Дзеясловы ўтвараюцца з дапамогаю суфіксаў *-і-(-ы), -э-(-е), -а-(-я-), -ава-(-ева-, -ява-), -ізава-(-ызава-), -ірава-(-ырава-), -а-, -ка-, -ніча-(-іча-), -фікава-(-іфікава- / -ыфікава-), -става-, -ну-* ад назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў і значна радзей ад лічэбнікаў, займеннікаў і выклічнікаў. Прыведзеныя суфіксы рэалізуюць разнастайныя словаўтваральныя значэнні. Так, адназоўнікавыя суфіксальныя дзеясловы абазначаюць працэсы і дзеянні, звязаныя з тым, што названа ўтваральным словам, напрыклад: *вечар-(∅)→вечар-э-(ць), фінанс-(ы)→фінанс-ава-(ць)* і г. д. Найбольш распаўсюджанае значэнне адпрыметнікавых дзеясловаў 'праяўляць прыкмету або надзяляць прыкметай, якая названа ўтваральным словам': *сін-(і)→сін-е-(ць), роў-н-(ы)→раўн-ава-(ць), дэмакратыч-н-(ы)→дэмакрат-ызава-(ць)* і інш.

Ад дзеясловаў з дапамогай суфіксаў утвараюцца дзеясловы са значэннем аднакратнасці, неаднакратнасці, рознанакіраванасці, працягласці і інш. дзеяння: *стука-(ць)→стукну-(ць), гна-(ць)→ган-я-(ць), паўз-(ці)→поўз-а-(ць)* і інш.

Да суфіксальнага словаўтварэння дзеясловаў трэба аднесці і ўтварэнне дзеясловаў незакончанага трывання ад адпаведных дзеясловаў закончанага трывання з дапамогай суфікса *-ва-*: *выпіса-(ць)→выпіс-ва-(ць), адгавары(ць)→адгавор-ва-(ць)*.

Вельмі развіта прэфіксальнае словаўтварэнне дзеясловаў. У залежнасці ад характару значэння ўтваральных слоў дзеяслоўныя прыстаўкі актуалізуюць розныя свае значэнні, што абумоўлівае наяўнасць даволі вялікай колькасці словаўтваральных тыпаў у сферы прыставачнага словаўтварэння дзеясловаў. Параўнайце: *несці→аб-несці, гаварыць→ад-гаварыць, ламаць→вы-ламаць, араць→за-араць, малоць→з-малоць, цягнуць→пера-цягнуць, ехаць→пры-ехаць,* і г. д. Большасць прыставачных словаўтваральных тыпаў высокапрадуктыўныя.

Постфіксальныя дзеясловы ўтвараюцца з дапамогай постфікса *-ца(-ся)* і маюць значэнне залежнага стану або розныя зваротныя значэнні. Тып мае фактычна неабмежаваныя словаўтваральныя магчымасці.

У сістэме дзеяслоўнага словаўтварэння ў сучаснай беларускай мове даволі шырока прадстаўлены змешаныя спосабы словаўтварэння (прэфіксальна-суфіксальны, прэфіксальна-постфіксальны, суфіксальна-постфіксальны і г. д.) з рознымі камбінацыямі прэфіксаў, суфіксаў і постфіксаў: *вад-(а)→абяз-водз-і-(ць), прам-(ы)→вы-прам-і-(ць), гультай-(∅)→раз-гульта-і-(ц)-ца, золат-(а)→а-залац-і-(ць)* і г. д.

Словаўтварэнне прыметнікаў адбываецца ад розных часцін мовы прэфіксальным, суфіксальным, прэфіксальна-суфіксальным спосабамі, а таксама шляхам слова- і асноваскладання.

Прэфіксальныя прыметнікі ўтвараюцца толькі ад прыметнікаў. Пры гэтым словаўтваральнай базай выступае ўсё слова. Параўнайце: *сіметрычны→а-сіметрычны, ваенны→да-ваенны, апошні→перад-апошні* і г. д. Прэфіксальныя прыметнікі рэалізуюць розныя словаўтваральныя значэнні: адсутнасць прыкметы, што названа ўтваральным словам (*маральны→а-маральны*); прыкмету, супрацьлеглую названай утваральным словам (*дэмакратычны→анты-дэмакратычны*); высокую ступень прыкметы або якасці, названай утваральным словам (*геніяльны→архі-геніяльны*) і інш.

Суфіксальныя прыметнікі ўтвараюцца ад розных часцін мовы. Адпрыметнікавыя вытворныя рэалізуюць галоўным чынам розныя мадыфікацыйныя значэнні: павелічальна-ўзмацняльнае (*тоўсты→таўшчэзны, здаровы→здаравенны*), памяншальна-ласкальнае (*малы→маленькі, белы→беленькі*) і інш. Сярод адназоўнікавых суфіксальных прыметнікаў выразна вылучаецца група прыналежных прыметнікаў (*бацькаў, вавёрчын, сястрын* і інш.), а таксама група адносна-якасных прыметнікаў з агульным словаўтваральным значэннем 'які мае адносіны да таго або які характарызуецца тым, што названа ўтваральным словам': *мароз-(∅)→мароз-н-(ы), войск-(а), вайск-ов-(ы)*.

Ад дзеясловаў утвараюцца суфіксальныя прыметнікі са значэннем 'які мае адносіны да дзеяння, названага ўтваральным словам' (*марожаны, адбіты, змарнелы*).

Ад лічэбнікаў утвараюцца толькі парадкавыя прыметнікі: *трэці, шосты, чатырнаццаты* і г. д. Яны ўтвараюцца як з дапамогай матэрыяльна выражаных суфіксаў [*сорак-(∅)→сарак-ав-(ы), тысяч-(а)→тысяч-н-(ы)*], так і нулявых [*пяць-(∅)→пят-∅-(ы)*]. Звычайна ў граматыках гэты клас вытворных слоў адносяць да так званых парадкавых лічэбнікаў.

Шырока ў словаўтваральнай сістэме прыметнікаў прадстаўлена прэфіксальна-суфіксальнае словаўтварэнне: *акн-(о)→пад-акон-н-(ы), дарог-(а)→пры-дарож-н-(ы)*. Даволі шматлікай тут з'яўляецца група вытворных прыметнікаў з нулявым суфіксам, утвораных ад назоўнікаў, што абазначаюць часткі цела чалавека ці жывёлы: *рук-(а)→бяз-рук-∅-(і), крыл-(о)→бяс-крыл-∅-(ы)* і інш.

Складаныя прыметнікі ўтвараюцца галоўным чынам ад адпаведных словазлучэнняў з падпарадкавальнай і злучальнай сувяззю або ад не звязаных паміж сабою лексем па аналогіі з існуючымі словаўтваральнымі мадэлямі: *высок-(і)+аб'ём-(∅)→высок-а-аб'ём-н-(ы)* па аналогіі з *высок-а-культур-н-(ы)* ад *высок-(ая) культур-(а)*.

Лічэбнікі і займеннікі не маюць такой развітай словаўтваральнай сістэмы, як назоўнікі або дзеясловы. Гэта, відаць, абумоўлена тым, што гэтыя часціны мовы маюць абмежаваны набор лексічных адзінак і з'яўляюцца ў пэўным сэнсе закрытымі сістэмамі. Таму і словаўтварэнне іх не вызначаецца разнастайнасцю словаўтваральных тыпаў і шматлікасцю вытворных. Сярод вытворных лічэбнікаў можна назваць толькі зборныя лічэбнікі *двое* [дв-oj-(э)], *трое* [тр-oj-(э)], *пяц-ёр-(а), васьм-ёр-(а),* а таксама складаныя лічэбнікі тыпу *пяцьдзесят, шэсцьдзесят, трыста, пяцьсот*. З пункту погляду сучаснага словаўтварэння такія гістарычныя вытворныя лічэбнікі, як *адзінаццаць, чатырнаццаць, трыццаць* лічацца невытворнымі. Не ўключаюцца ў сістэму сінхроннага словаўтварэння і састаўныя лічэбнікі тыпу *трыста пяцьдзесят сем*.

Словаўтварэнне займеннікаў таксама не вызначаецца разнастайнасцю словаўтваральных тыпаў і сродкаў, колькасцю вытворных лексічных адзінак. Да вытворных займеннікаў адносяцца, напрыклад, утварэнні з прэфіксам *не-(нешта, нехта, некаторы, некалькі), абы-(абы-хто, абы-які), ні-(ніякі, нічый),* з постфіксамі *-сьці(-сь), -небудзь (хтосьці, штось, які-небудзь* і інш.). Некаторыя суфіксальныя займеннікі (*нештачка, ніколечкі*) адносяцца да разраду размоўных.

Словаўтварэнне прыслоўяў, як і іншых знамянальных часцін мовы, у беларускай мове характарызуецца дастаткова развітай сістэмай словаўтваральных спосабаў і сродкаў. Асноўнае месца ў сістэме вытворных прыслоўяў займаюць суфіксальныя і прэфіксальна-суфіксальныя ўтварэнні.

Суфіксальныя прыслоўі ўтвараюцца: ад прыметнікаў (гэта самы шматлікі клас вытворных): *доўг-(і)→доўг-а, гарач-(ы)→горач-а, шпарк-(і)→шпарк-а* і г. д.; ад назоўнікаў: *вечар-(∅)→вечар-ам, сіл-(а)→сіл-ай* і інш. Большасць такіх вытворных суадносяцца з адпаведнымі склонавымі формамі ўтваральных назоўнікаў, а словаўтваральныя суфіксы — з канчаткамі. Такім чынам, прыведзеныя прыслоўі можна класіфікаваць як утвораныя марфолага-сінтаксічным спосабам, гэта значыць яны могуць разглядацца як вынік пераходу склонавых форм назоўнікаў у прыслоўі.

Адлічэбнікавыя і аддзеяслоўныя суфіксальныя прыслоўі прадстаўлены толькі адзінкавымі ўтварэннямі (*двойчы, тройчы, лежма, цурком*). Прыслоўі, утвораныя шляхам суфіксацыі ад прыслоўяў, маюць пераважна мадыфікацыйныя значэнні памяншальнасці ці непаўнаты прыкметы: *ціха→ціх-енька, мала→мал-авата*. Прэ-

фіксальныя прыслоўі ўтвараюцца з дапамогай прыставак *за- (за-далёка, за-многа, за-цесна), не-(ня) (няшмат, не-высока).* Затое прэфіксальна-суфіксальнае словаўтварэнне прыслоўяў прадстаўлена значнай колькасцю словаўтваральных тыпаў, некаторыя з якіх маюць даволі высокую прадуктыўнасць: *гаспадарск-(і)→пагаспадарск-у, беларуск-(і)→па-беларуск-у, восень-(∅)→у-восень-∅* і інш. Нешматлікімі прыкладамі прадстаўлены словаўтваральныя тыпы, паводле якіх утвараюцца складаныя і складанасуфіксальныя, складанапрэфіксальныя і іншыя прыслоўі (*дзенідзе, дайным-дайно, штоночы, напаўсілы*), хоць у слоўніках прыводзяцца дзесяткі вытворных з такой структурай.

Словаўтварэнне службовых часцін мовы мае свае асаблівасці. Большасць вытворных прыназоўнікаў, часціц, злучнікаў утвораны марфолага-сінтаксічным спосабам, гэта значыць, усе яны — вынік пераходу слоў адной часціны мовы (звычайна знаменальнай) у другую (службовую). Параўнайце, напрыклад, вытворныя адпрыслоўныя прыназоўнікі: *збоку, паабапал, насупраць* і г. д.; прыназоўнікі, якія ўзыходзяць да адпаведных дзеепрыметнікаў: *дзякуючы, гледзячы.* Марфолага-сінтаксічным спосабам утвораны злучнікі *як, калі, быццам, хай, раз;* часціцы *якраз, чыста, няхай, так, ужо;* выклічнікі *божа, жах, дзякую, годзе, прэч* і г. д. Прыналежнасць прыведзеных лексічных адзінак да знаменальных часцін мовы (прыслоўяў, займеннікаў, назоўнікаў) ці да службовых (прыназоўнікаў, часціц, злучнікаў, выклічнікаў) можа быць вызначана толькі ў кантэксце. Да складаных слоў адносяцца такія вытворныя прыназоўнікі, як *з-за, панад, паміж* і падобныя, утвораныя шляхам складання двух простых прыназоўнікаў.

Такім чынам, кожная часціна мовы мае сваю сістэму словаўтваральных сродкаў, якія ў сукупнасці і складаюць словаўтваральную сістэму беларускай мовы.

*Літ.*:Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Марфалогія. Мн., 1962; Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985. *А. А. Лукашанец.*

## СЛОЎНІК

Слоўнік — даведачнае выданне, у якім даецца сістэматычнае апісанне канкрэтнай групы слоў (або марфем, словазлучэнняў, прыказак ці іншых моўных адзінак). Слоўнікам часам называецца і лексіка пэўнай мовы.

Нямецкі лексікограф В. Грым найбольш адметнай рысай слоўніка лічыў алфавітны парадак слоў у ім. Сёння, калі побач з алфавітнай шырокую вядомасць набылі і іншыя сістэмы арганізацыі слоў у слоўніках (гнездавая, інверсійная, ідэаграфічная і інш.), спосаб размяшчэння лексем у алфавітным парадку ўсё ж застаецца галоўным. У. І. Даль акрэсліў другую адметную рысу слоўнікаў — фрагментарны характар іх зместу. Прынцып цэласнасці зместу дзейнічае толькі ў межах асобнага слоўнікавага артыкула і не ахоплівае кнігу ў цэлым. Таму чытанне ўсяго слоўніка запар амаль не практыкуецца.

Поруч з агульнымі адметнымі рысамі кожная лексікаграфічная праца характарызуецца наяўнасцю спецыфічных слоўнікавых паказчыкаў. У залежнасці ад таго, які з гэтых паказчыкаў (лексікаграфічная навука ведае іх каля сотні) з'яўляецца вызначальным для слоўніка, ён і атрымлівае сваю назву. Напрыклад, «слоўнік можа быць аднамоўным і двухмоўным, тлумачальным і перакладным, гістарычным і сучасным, навуковым і навучальным, лінгвістычным і лінгвакраіназнаўчым, школьным і акадэмічным, дыялектным і літаратурным, дыферэнцыяльным і ідэаграфічным, частотным і марфемным, нарматыўным і тэрміналагічным, галіновым і энцыклапедычным, арфаграфічным і арфаэпічным, этымалагічным і фразеалагічным, стылістычным і граматычным, замежных слоў і эпітэтаў, амонімаў і сінонімаў, паронімаў і антонімаў, цяжкасцей мовы і скарачэнняў слоў, уласных імёнаў і геаграфічных назваў, крылатых слоў і прыказак, мовы пісьменніка і мовы асобнага твора, для тых, хто ведае мову, і тых, хто прыступае да яе вывучэння і гэтак далей, таму што выключна шматграннае само слова — асноўны аб'ект лексікаграфіі — і бясконца разнастайны інтарэс да яго» (Михневич А. Е. В глубь слова человеческого. Мн., 1982. С. 57).

Сёння створана ўжо некалькі сотэнь розных беларускіх слоўнікаў. Якім жа чынам можна абагульніць лексікаграфічны вопыт і даць уяўленне пра слоўнік наогул, не ўпамінаючы канкрэтныя слоўнікі з іх спецыфічнымі асаблівасцямі? На думку П. М. Дзянісава, гэта можна зрабіць шляхам апісання ідэальнага універсальнага слоўнікавага артыкула нейкага абстрактнага суперслоўніка, які ўвабраў бы ў сябе асноўныя рысы пераважнай большасці слоўнікаў: «Ідэальны універсальны слоўнікавы артыкул павінен мець, па меншай меры, наступныя кампаненты: 1) загаловачнае слова; 2) яго фармальныя характарыстыкі (граматычныя, арфаэпічныя, арфаграфічныя і г. д.); 3) яго семантызацыю; 4) вытрымкі з тэкстаў, што ілюструюць тую або іншую фармальную ці семантычную асаблі-




**Лінгвістычныя слоўнікі.**

васць загаловачнага слова; 5) указанні на «суседзяў» загаловачнага слова ў лексічнай сістэме мовы па розных восях семантычнай прасторы мовы; 6) спасылкі і даведкі living рознага характару і прызначэння. Кожны з гэтых пунктаў мае свой характар разгортвання» (Денисов П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980. С. 217). Сярод беларускіх слоўнікаў найбольш наблізіўся да такой схемы «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—84). Стварыць жа ідэальны універсальны слоўнік, вядома, немагчыма, паколькі многія слоўнікавыя паказчыкі несумяшчальныя ў межах аднаго выдання. Нельга, напрыклад, сумясціць рысы школьнага і дыялектнага слоўнікаў або слоўніка амонімаў і эпітэтаў і г. д.

Больш адэкватнае ўяўленне пра разнастайныя рысы слоўніка наогул дае выкарыстанне пэўнай сістэмы слоўнікавых каардынат (лінгвістычнай, псіхалагічнай, семіятычнай і сацыялагічнай), у межах якіх можна ўсебакова апісаць любы тып слоўніка. Пры дапамозе паказчыкаў лінгвістычнай каардынаты ў слоўніках перадаюцца структурныя рысы шматузроўневай будовы пэўнай нацыянальнай мовы. У залежнасці ад таго, якія адзінкі мовы апісваюцца ў слоўнікавых артыкулах, можна вылучыць слоўнікі марфем (да іх адносіцца, напрыклад, «Марфемны слоўнік беларускай мовы» А. М. Бардовіча, Л. М. Шакуна. 2 выд. 1989), уласна слоўнікі, ці слоўнікі лексем (яны складаюць пераважную большасць беларускіх слоўнікаў), слоўнікі паняццяў (тэрміналагічныя слоўнікі, універсальныя і галіновыя энцыклапедычныя слоўнікі, анамастычныя і тапанімічныя слоўнікі), слоўнікі словазлучэнняў [эпітэтаў, фразеалагізмаў, скарачэнняў, а таксама такія слоўнікі, як «Беларускія народныя параўнанні» Ф. М. Янкоўскага (1973), «Беларуская перыфраза» Г. М. Малажай (1974), «Асацыятыўны слоўнік беларускай мовы» А. І. Цітовай (1981) і інш.]. Асобную групу складаюць парэміялагічныя слоўнікі, у якіх падаюцца і нярэдка тлумачацца, ілюструюцца прыкладамі з мастацкай і публіцыстычнай літаратуры поўныя завершаныя сказы на беларускай мове ( слоўнікі прыказак, прымавак, выслоўяў, крылатых выразаў, афарызмаў). У сваю чаргу, уласна слоўнікі ў залежнасці ад уласцівасцей слоў, якія яны апісваюць, падзяляюцца на частотныя [напрыклад, у чатырох выпусках «Частотнага слоўніка беларускай мовы» Н. С. Мажэйкі, А. Я. Супруна (1976—89) падаецца частата ўжывання ў пісьмовай і гутарковай мове некалькіх дзесяткаў тысяч беларускіх слоў], арфаграфічныя (падаюць напісанне і акцэнталогію беларускіх слоў), дыялектныя (у іх засведчана прыналежнасць рэестравых адзінак да пэўнай мясцовай гаворкі), гістарычныя (у іх словы суадносяцца з канкрэтнымі пісьмовымі помнікамі пэўнай гістарычнай эпохі), этымалагічныя (вызначаюць паходжанне слоў), перакладныя (у іх прыводзяцца неабходныя адпаведнікі да перакладаемых слоў), замежных слоў (тлумачаць словы, запазычаныя з іншых моў), мовы пісьменніка [напрыклад, 2-томны «Слоўнік мовы Скарыны» У. В. Анічэнкі (1977—84) тлумачыць і ілюструе прыкладамі словы з выданняў Ф. Скарыны]. Асобную групу складаюць семанімічныя слоўнікі лексем, у якіх пэўная ўласцівасць слова апісваецца праз вызначэнне яго суадносін з іншымі словамі (сінонімамі, антонімамі, амонімамі, паронімамі, аднакарэннымі словамі і г. д.). Гэта, напрыклад, «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» М. К. Клышкі (1976), «Слоўнік амонімаў беларускай мовы» В. Дз. Старычонка (1991), слоўнік «Цяжкія выпадкі ўжывання блізкіх па гучанню слоў» С. М. Грабчыкава (1977).

Зусім іншы характар маюць слоўнікавыя паказчыкі псіхалагічнай каардынаты, якія арыентуюць слоўнік на адпаведную катэгорыю чытачоў, улічваюць пазнавальныя магчымасці чалавека і асаблівасці той чытацкай аўдыторыі, для якой яны прызначаны. У слоўнікі агульналітаратурнай мовы з кожнай галіны навуковых ведаў уключаецца літаральна па некалькі дзесяткаў найбольш вядомых тэрмінаў са спецыяльнымі стылістычнымі паметамі абмежавальнага характару. Наогул тэрміны і наменклатурныя назвы апісваюцца ў тэрміналагічных (тлумачальных і перакладных) слоўніках, якімі рэгулярна карыстаюцца прадстаўнікі адпаведных прафесій. Розны ўзровень моўнай падрыхтоўкі чытачоў патрабуе паступовага ўскладнення і павелічэння аб'ёму выкладзенага ў слоўніках лексічнага матэрыялу. Таму сярод навучальных вылучаюць слоўнікі для пачатковых класаў, для сярэдняй школы і для дарослых. Напрыклад, у «Арфаграфічным слоўніку: Для пачатковых класаў» (5 выд., 1987) падаецца каля 7 тысяч найбольш вядомых беларускіх слоў. 6-е выданне «Арфаграфічнага слоўніка» М. П. Лобана і М. Р. Судніка (1990) змяшчае ўжо больш за 15 тысяч шырокаўжывальных слоў літаратурнай мовы. Нарэшце, прызначаны для дарослых «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» пад рэдакцыяй М. В. Бірылы (1987) ахоплівае больш за 118 тысяч беларускіх слоў з самых розных разрадаў і пластоў лексікі і з'яўляецца сёння найбольш поўным слоўнікам роднай мовы. Пры дапамозе псіхалагічнай каардынаты вылучаюць таксама і такія разнавіднасці слоўнікаў, як актыўны (ён спрыяе пабудове свайго ўласнага тэксту) і пасіўны (дапамагае зразумець чужы тэкст), універсальны (напрыклад, шматтомны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» змяшчае самыя розныя тыпы і віды лексікаграфічнай інфармацыі пра слова, таму ён разлічаны на ўсе катэгорыі чытачоў) і спецыялізаваны (падае толькі пэўны тып інфармацыі пра слова) і некаторыя інш.

Знакавы, метамоўны, сімвалічны і даведачна-адсылачны апарат кожнага слоўніка адносіцца да семіятычнай каардынаты. Для характарыстыкі гэтай каардынаты найбольш істотным з'яўляецца вылучэнне чатырох асноўных семіятычных форм назапашвання, захавання і перадачы слоўнікавых ведаў: вуснай, рукапіснай, друкаванай і машыннай. Так, вядомыя ўсім нам беларускія словы перадаваліся спачатку вусным шляхам. Потым з'явіліся рукапісныя азбукоўнікі і гласарыі. Далей друкарскі станок зрабіў магчымым у шмат разоў павялічыць тыражы слоўнікаў. Нарэшце, увядзенне беларускага слова ў памяць ЭВМ стварае выключныя магчымасці для яго выкарыстання ў сучасных інфармацыйных працэсах. Напрыклад, пры дапамозе ЭВМ можна ў самы сціслы тэрмін стварыць машынны канкарданс (слоўнік цытат) твораў якога-небудзь пісьменніка ці распрацаваць інфармацыйна-пошукавы тэзаўрус па якой-небудзь галіне ведаў і г. д. Сёння найбольш пашыранай семіятычнай формай існавання беларускіх слоўнікаў застаецца друкаваная. У апошнія дзесяцігоддзі паліграфічныя магчымасці слоўнікавай справы значна пашырыліся. У некаторых слоўніках для тлумачэння лексікі сталі змяшчаць малюнкі, відарысы, схемы, фотаздымкі; граматычная характарыстыка асобных груп слоў часам падаецца ў выглядзе спецыяльных табліц, матрыц і да т. п.; для спасылкі на крыніцы таго або іншага слова ўсё часцей выкарыстоўваюцца скарочаныя назвы (абрэвіятуры) гэтых крыніц і г. д. Усё гэта сведчыць пра тое, што будучыня слоўнікавай справы ў многім залежыць ад распрацоўкі новых слоўнікавых паказчыкаў семіятычнай каардынаты.

Гістарычная своеасаблівасць кожнага беларускага слоўніка праяўляецца праз слоўнікавыя паказчыкі сацыялагічнай каардынаты. Інакш кажучы, праз уключэнне ў свой склад пэўных катэгорый слоў, пэўнага кола ілюстрацый, разнастайнай пазалінгвістычнай інфармацыі аб паняццях, працэсах, з'явах, людзях, прадметах, абазначаных словамі, кожны слоўнік тысячамі ніцей звязаны з той гістарычнай эпохай, на працягу якой ён быў створаны. Напрыклад, наўрад ці выпадковым з'яўляецца тое, што першыя ўсходнеславянскія слоўнікі лексем («Лексіс» Л. Зізанія і «Лексікон» П. Бярынды) былі надрукаваны яшчэ ў канцы 16 — пачатку 17 ст., а першыя беларускія слоўнікі паняццяў

(тэрміналагічныя і энцыклапедычныя даведнікі) выйшлі ў свет толькі ў нашым стагоддзі, калі пачалося імклівае развіццё навукі і тэхнікі, якому нязменна спадарожнічае развіццё нацыянальнай тэрміналогіі і энцыклапедычнай справы. Даволі моцны адбітак на змесце слоўнікаў пакідае і ўласцівы таму ці іншаму адрэзку часу характар моўнай палітыкі. Так, калі беларускія слоўнікі 1920-х гадоў складаліся на фоне пурыстычных тэндэнцый у моўнай палітыцы, то слоўнікі беларускай мовы 1930—50-х гадоў пад уплывам навукова неабгрунтаванага курсу на «зліццё моў» рэзка павялічылі ў сваім складзе колькасць функцыянальна неапраўданых запазычанняў з рускай мовы. Моўная сітуацыя 1980—90-х гадоў характарызуецца паступовым адмаўленнем лексікографаў ад жорсткага нармавання пры складанні слоўнікаў і пераходам да больш дэмакратычных метадаў лексікаграфічнай работы. У сувязі з гэтым на парадак дня пастаўлена пытанне пра стварэнне поўнага слоўніка жывой беларускай мовы агульнага тыпу, які аб'ядноўвае ўсю (літаратурную і нелітаратурную) лексіку.

Айчынныя слоўнікі маюць тры асноўныя сацыяльныя функцыі: інфармацыйную (філалагічныя і энцыклапедычныя слоўнікі праз тлумачэнні слоў і навуковыя дэфініцыі паняццяў памагаюць чытачам далучацца да назапашаных чалавецтвам разнастайных ведаў), камунікацыйную (перакладныя слоўнікі шляхам устанаўлення эквівалентнасці слоў сваёй і іншых моў садзейнічаюць пашырэнню моўных кантактаў паміж народамі), нарматыўную (пры дапамозе стылістычных памет у слоўніках сучасная лексікаграфія стабілізуе лексічныя і іншыя нормы, чым спрыяе ўдасканаленню літаратурнай мовы як галоўнага сродку зносін).

*Літ.:* Д е н и с о в П. Н. Лексика русского языка и принципы ее описания. М., 1980; М и х н е в и ч А. Е. В глубь слова человеческого: Наука о языке и её разделы. Мн., 1982; Щ е р б и н В. К. Вселенная в алфавитном порядке: Словари вчера, сегодня, завтра. Мн., 1987. *В. К. Шчэрбін.*

## «СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ» І. І. НАСОВІЧА

«Слоўнік беларускай мовы» («Словарь бѣлорусскаго нарѣчія») І. І. Насовіча — гэта першы навуковы даведнік па лексіцы беларускай мовы сярэдзіны 19 ст.

Галоўным слоўнікавым багаццем кожнай мовы з'яўляюцца так званыя «абласныя» словы (рэгіяналізмы, дыялектызмы), удалае выкарыстанне якіх надае асаблівы каларыт мове мастацкіх твораў. Рукапісныя запісы і тлумачэнні дыялектных слоў асобнымі ўсходнеславянскімі мовазнаўцамі рабіліся ўжо ў 18 ст., а ў 1-й палове 19 ст. ставілася пытанне пра іх выданне ў выглядзе слоўніка. Ініцыятарамі стварэння такога слоўніка выступілі І. І. Сразнеўскі і А. Х. Вастокаў. На іх думку, падобны слоўнік мог бы мець назву «Спроба слоўніка абласных гаворак» і складацца з дзвюх частак: «Спроба абласнога велікарускага слоўніка» (выйшла з друку ў 1852 г.) і «Гаворкі маларуская і беларуская». Ажыццявіць слоўнікавае апісанне беларускай гаворкі Другое аддзяленне Імператарскай Акадэміі навук (Аддзяленне рускай мовы і славеснасці) даручыла І. І. Грыгаровічу (гл. **Грыгаровіч Іван Іванавіч**), які распрацаваў слоўнікавыя артыкулы на першыя 3 літары. Пасля яго смерці (у лістападзе 1852 г.) працягваць работу над беларускай часткай слоўніка Аддзяленне запрасіла І. І. Насовіча, які яшчэ ў 1850 г. даслаў у Акадэмію свае працы слоўнікавага характару. Прымалася пад увагу і тое, што І. І. Насовіч меў шматлікія запісы мясцовых слоў з розных куткоў беларускага краю, якія ён занатаваў падчас сваёй педагагічнай дзейнасці ў Аршанскай, Мсціслаўскай, Маладзечанскай, Дзвінскай і Свянцянскай навучальных (духоўных і свецкіх) установах. У працэсе работы над слоўнікам І. І. Насовіч не абмежаваўся папярэднімі запісамі, наладзіў шэраг навуковых экспедыцый у Мінскую, Гродзенскую і Магілёўскую губерні, каб дадаткова вывучыць мясцовы лексічны матэрыял. Ён шырока выкарыстоўваў лексіку і з друкаваных крыніц — актаў, грамат, фальклорных зборнікаў, перыядычных выданняў таго часу. У 1863 г. І. І. Насовіч завяршыў работу над слоўнікам і накіраваў рукапіс у Акадэмію навук, якая выдала яго ў 1870 г.

Нягледзячы на тое, што слоўнік планаваўся як частка 2-га тома «Спробы слоўніка абласных гаворак», ён выдадзены як самастойная праца. У яго ўключана больш за 30 тысяч слоў жывой беларускай мовы сярэдзіны 19 ст. Багаццем рэестру ён можа быць параўнаны са «Спробай абласнога велікарускага слоўніка», рэестр якога разам з дадаткам, выдадзеным у 1858 г., уключае каля 40 тысяч дыялектных слоў з розных рэгіёнаў Расіі. Праца ні ў чым не саступала лепшым слоўнікам таго часу, пра што сведчыць прысуджэнне І. І. Насовічу Дзямідаўскай прэміі. Сярод аналагічных лексікаграфічных выданняў той пары слоўнік І. І. Насовіча вылучаецца асаблівым падыходам да апісання беларускага дыялектнага слова, арыгінальным і спецыфічным спалучэннем розных слоўнікавых паказчыкаў і лексікаграфічных прыёмаў, уласцівых дыялектным, перакладным, тлумачальным і іншым тыпам слоўнікаў. Удалае сумяшчэнне ў слоўніку амаль усіх вядомых на той час прыёмаў і




**І. І. Насовіч. «Слоўнік беларускай мовы». 1870.**

спосабаў апісання дыялектнай лексікі зрабіла даведнік шматпланавым і разнастайным паводле змешчанай у ім лексічнай інфармацыі, што максімальна пашырыла чытацкую аўдыторыю, дазволіла выкарыстоўваць яго для самых розных мэт (навуковага вывучэння мясцовых беларускіх слоў, перакладу розных беларускіх тэкстаў на рускую мову, тлумачэння асобных этнаграфічных з'яў і звычаяў і г. д.).

Універсальны характар слоўніка І. І. Насовіча не дазваляе адназначна вызначыць яго тып. Адны бачаць у ім тыповыя рысы тлумачальнага слоўніка, другія — тлумачальнага і перакладнога, трэція — характэрныя рысы тлумачальнага, этымалагічнага і перакладнога, чацвёртыя адзначаюць у ім тыповыя прыкметы агульнага дыялектнага слоўніка. Усе гэтыя меркаванні пра тып слоўніка І. І. Насовіча маюць пэўныя аб'ектыўныя падставы. Аднак параўнальны аналіз слоўнікавых паказчыкаў у працы І. І. Насовіча паказвае, што найбольш паслядоўна ў ім рэалізуюцца дыялектны і перакладны паказчыкі. Так,вынікі супастаўлення рэестраў «Слоўніка...» І. І. Насовіча і пяцітомнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (1977—84) пацвярджаюць думку А. А. Крывіцкага пра тое, што «з пункту погляду лексічных норм сучаснай агульнанароднай літаратурнай мовы і адпаведных асаблівасцей дыялектнай слоўнік І. І. Насовіча вызначаецца прыкметнай рэгіянальнасцю. Пераважае ў ім паўночна-ўсходняя беларуская дыялектная лексіка» (Тры этапы фарміравання беларускай дыялектнай лексікаграфіі // З народнага слоўніка. Мн., 1975. С. 23). Перакладны паказчык двухмоўнасці адлюстраваны ў слоўніку І. І. Насовіча адпаведнымі рускімі аднаслоўнымі эквівалентамі ці апісальнымі тлумачэннямі парыску ўсіх без выключэння рэестравых

беларускіх слоў («Айканне — Стенаніе», «Брудносць—Нечистота», «Грабаръ — Землекопъ», «Знаёмый — 1) Знакомый... 2) Извѣстный», «Обицце — Обои», «Струшня — Кушанье изъ различных огородныхъ кореньевъ» і інш.).

З двух адзначаных слоўнікавых паказчыкаў вызначальным з'яўляецца дыялектны, паколькі дыферэнцыяльны (адносна рускай мовы той пары) характар перакладаў у працы пазбаўляе яе істотных характэрных рыс агульнага перакладнога слоўніка. Так, у адпаведнасці з дыферэнцыяльным падыходам, каб пазбегнуць агульных з рускай мовай слоў, якія ўвайшлі ў рэестр «Спробы абласнога велікарускага слоўніка», І. І. Насовіч свядома не ўключыў у слоўнік шэраг лексем з асноўнага слоўнікавага фонду беларускай агульнанацыянальнай мовы (словы *агонь, вада, зямля, нага* і многія іншыя). Да рыс, якія характарызуюць слоўнік І. І. Насовіча як пераважна дыялектны, можна аднесці: відавочную рэгіянальнасць значнай часткі рэестравых слоў *(асли* 'развѣ', *безуля* 'шалунъ', *молодня* 'молнія'); дакладную фанетычную перадачу жывога гучання мясцовых слоў (параўнайце, напрыклад, фанетычны каментарый да слова *кгеркгаць:* "**кг** произносится какъ Латинское g"); выкарыстанне ў якасці ілюстрацый фрагментаў жывой народна-дыялектнай мовы (гл., напрыклад, ілюстрацыі да слоў *аці-жъ, зневажный, поподзѣцьца: Аци лихо-ж цебе поднесло сюды; Якій ты зневажный хлопецъ! хоць бы ты уважався старыхъ людзей; Куды гетыя хлопцы поподзѣлись?*); адлюстраванне ўзроўню светаразумення простых людзей (параўнайце, напрыклад, агульны сэнс ілюстрацый да слоў *жаль, наганицель, сурочиць: Человѣкъ безъ жалю въ сердцѣ, не думаець, якъ отвѣчаць передъ Богомъ; Покорай Боже наганицелей нашихъ; Твое вочи сурочуць, осурочили мою работу, палецъ сколола)* і некаторыя іншыя слоўнікавыя паказчыкі.

У працы І. І. Насовіча ёсць шэраг паказчыкаў і прыёмаў апісання лексікі, якія звычайна рэалізуюцца ў тлумачальных слоўніках. Да такіх можна аднесці: наяўнасць дэфініцый («Глей — Илъ на днѣ воды», «Кляшторь — Католический монастырь», «Рѣчь — 1) Изложеніе мыслей и сужденій, разсказъ... 2) Доводъ ... 3) Даръ слова»); тлумачэнне рэестравых беларускіх слоў пры дапамозе рускіх сінанімічных пар і радоў («Сцихомирный — Смирный, кроткій», «Шаповалъ — Валяльщикъ, войлочникъ» і інш.); наяўнасць стылістычных памет пры асобных рэестравых словах *(ирон., ласк., негод. ругат., стар., унич., филос., церк., юрид.* і іншыя ў «Тлумачэнні скарачэнняў у слоўніку»). Аднак не ўсе рэестравыя словы маюць дэфініцыі, сінанімічныя тлумачэнні, стылістычныя паметы, этымалагічныя даведкі і г. д., таму ступень паўнаты рэалізацыі кожнага з разгледжаных вышэй прыёмаў і спосабаў апісання лексікі ў параўнанні з дыялектнымі слоўнікавымі рысамі значна меншая. Гэта дае падставу лічыць «Слоўнік беларускай мовы» І. І. Насовіча своеасаблівым дыялектным даведнікам па лексіцы жывой беларускай мовы сярэдзіны 19 ст.

Своеасаблівасць падыходу І. І. Насовіча да апісання розных уласцівасцей жывога беларускага слова абумоўлена не толькі ўдалым спалучэннем характэрных рыс самых розных па тыпу слоўнікаў, але і свядомым выкарыстаннем у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу народных песень, прыказак, прымавак, фразеалагізмаў (гл. напрыклад, ілюстрацыі да слоў *влѣцѣ, збираць, солодокъ: Влѣцѣ въ карецѣ, Зимою въ возочку, Весною въ човночку.* Изъ песни; *Колі не нажнёмъ, дакъ назбираемъ.* Посл.; *Медокъ солодокъ.* Погов.).

Станоўчыя рысы «Слоўніка беларускай мовы» адзначылі ўжо сучаснікі І. І. Насовіча. Так, акадэмік І. І. Сразнеўскі лічыў, што «толькі пры дапамозе такога слоўніка... можна пачаць падрабязныя даследаванні складу беларускай мовы». Вялікую цікавасць навуковай і літаратурнай грамадскасці слоўнік І. І. Насовіча прыцягваў і ў пазнейшыя часы. У 1920-я гады, калі на Беларусі ішоў актыўны працэс моўнага будаўніцтва, ён карыстаўся самым шырокім попытам у розных груп насельніцтва рэспублікі. Наступныя ж два дзесяцігоддзі (1930—40-я гады) характарызуюцца рэзка адмоўнымі адносінамі да гэтага слоўніка. Аднак ужо ў пачатку 1950-х гадоў на старонках перыядычнага беларускага друку з'яўляюцца спачатку адзінкавыя, а потым усё больш шматлікія станоўчыя згадкі пра слоўнік І. І. Насовіча. У 1983 г. было ажыццёўлена яго факсімільнае перавыданне.

*Літ.*: Камароўскі Я. І. І. Насовіч і яго слоўнік // Беларусь. 1957. № 7; Суднік М. Р. І. І. Насовіч і яго слоўнік // Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. *В. К. Шчэрбін.*

## «СЛОЎНІК МОВЫ СКАРЫНЫ»

«Слоўнік мовы Скарыны» — слоўнік лексікі біблейскіх кніг Старога запавету, перакладзеных і выдадзеных у 1517—19 гг. у чэшскай Празе беларускім першадрукаром і асветнікам Францыскам Скарынам, складзены У. В. Анічэнкам (гл. **Анічэнка У. В.**) і выдадзены ў 2 тамах: т. 1-ы (літары А — О) у 1977 г., т. 2-і (П — Я) у 1984 г. Гэта першы ў гісторыі беларускай лексікаграфіі слоўнік мовы аднаго аўтара старажытнага перыяду. Ён змяшчае каля 9,5 тысячы рэестравых слоў і іх форм.

У слоўніку змешчана ўся агульная лексіка, зафіксаваная ў перакладных выданнях Скарыны, у яго прадмовах і пасляслоўях: назоўнікі, займеннікі, прыметнікі, лічэбнікі, дзеясловы, прыслоўі, прыназоўнікі, злучнікі, часціцы і выклічнікі. Уласныя імёны людзей і геаграфічныя назвы біблейскіх тэкстаў не прыводзяцца, паколькі яны не характарызуюць перакладчыцкую манеру Скарыны і патрабуюць іншых спосабаў і прыёмаў лексікаграфічнай апрацоўкі. Змяняльныя часціны мовы падаюцца ў зыходных формах: назоўнікі, займеннікі, прыметнікі і парадкавыя лічэбнікі — у форме назоўнага склону адзіночнага ліку, дзеясловы — у інфінітыве: *брат, дом, князь, орех, ратаи, ухо; мои, твои, свои; горший, добрый, первый; бити, жити, ходити* і г. д. Калі ж зыходная форма ў скарынаўскіх тэкстах не выяўлена, то яна ўстанаўліваецца паводле ўліку агульных заканамернасцей граматычнага ладу старабеларускай мовы.

Структура слоўнікавых артыкулаў знаходзіцца ў залежнасці ад асаблівасцей слоўнікавага складу скарынаўскіх тэкстаў. Лексіка Скарыны надзвычай стракатая з пункту погляду паходжання і арфаграфічна-граматычнага афармлення. Побач з традыцыйнымі напісаннямі, замацаванымі ва ўсходнеславянскім пісьменстве на працягу папярэдніх стагоддзяў, у Скарыны трапляюцца і шматлікія адхіленні, выкліканыя ўздзеяннем жывога вымаўлення: *убогыи, убогии* і *вбогии, ударити* і *вдарити, учение* і *вчение, взяти* і *узяти, глубокыи* і *глубокии, крепкыи* і *крепкии, бритва* і *брытва* і інш. Для Скарыны вельмі характэрна таксама шырокае выкарыстанне розных словаўтваральных варыянтаў для абазначэння адных і тых жа жывых істот, прадметаў і паняццяў: *блоха* і *блошица, брадавка* і *брадавица, братанец* і *братанич, вдова* і *вдовица, властелин* і *властель* і г. д. Адно і тое ж паняцце нярэдка перадаецца ўласнабеларускімі словамі і запазычаннямі з іншых моў: *нрав* і *мрав, ровный* і *равный, розум* і *разум, свеча* і *свеща, семыи* і *седмыи, ести* і *ясти, я* і *аз.*

Слоўнікавыя артыкулы будуюцца па традыцыйнай у лексікаграфіі схеме. Пасля загаловачнага (рэестравага) слова ў дужках змяшчаюцца яго варыянты; пры дзеясловах прыводзяцца і розныя формы дзеепрыметнікаў, напрыклад: **бити** *(битый, биющии, бия);* **течи** *(теча, текше, текущии)*. Загаловачныя словы суправаджаюцца граматычнымі паметамі — азначэннем часціны мовы, роду, абстрактнасці і зборнасці назоўнікаў, ступеней параўнання прыметнікаў, трывання, стану і пераходнасці дзеясловаў і г. д. Важным элементам слоўнікавага артыкула з'яўляецца дэфініцыя — вызначэнне семантыкі слова. Тут прымяняецца некалькі спосабаў. У большасці выпадкаў значэнне слова раскрываецца адпаведнымі сродкамі сучаснай беларускай літара-



Слоўнік мовы Скарыны. Т. 1—2. 1977—84.

турнай мовы: *кур* 'певень'; *рать* 'войска'; *хоругов* 'сцяг'. Нярэдкія выпадкі, калі значэнне слова раскрываецца сінанімічнымі радамі: **барва** *фарба, афарбоўка, колер;* **блато** *балота, гразь, ціна;* **пригожии** *прыгодны, прыдатны, адпаведны, належны.* Шырока выкарыстаны і прыём тлумачэння слоў праз адсылку да зыходнай утваральнай асновы: **алчныи** прым. да *алкати;* **вход** дзеянне па дзеяслову *входити*; **вчера** прысл. да *вчерашнии;* **первыи** (першии) парадк. да *один*; **прелегкии** прым. пар. ст. да *легкии.* Аднак уяўляецца не зусім удалым тлумачэнне многіх назоўнікаў праз адпаведныя аднакарэнныя дзеясловы: **вертено** дзеянне па дзеяслову *вертети*; **живность** дзеянне па дзеяслову *живити*; **квас** дзеянне па дзеяслову *квасити.*

У скарынаўскіх тэкстах, як і ў іншых старажытных творах, сустракаецца вялікая колькасць мнагазначных слоў, і гэта наглядна паказвае слоўнік. Напрыклад, назоўнік **доска** *(дошка, дска)* мае 4 значэнні: 1. *Дошка;* 2. *Пліта*; 3. *Надпіс*; 4. *Крыж.* Шмат значэнняў маюць некаторыя дзеясловы. Напрыклад, у дзеяслове **поставити** выяўлена 7 значэнняў: 1. *Паставіць;* 2. *Раскінуць;* 3. *Пабудаваць;* 4. *Устанавіць, даць уладу*; 5. *Назначыць;* 6. *Прызначыць*; 7. *Умацаваць.*

У слоўніку не тлумачацца словы, якія без прыкметных семантычных і структурных змен захоўваюцца ў сучаснай беларускай мове і значэнне якіх лёгка выяўляецца з прыведзеных цытат, напрыклад, назоўнікі *боб, бот, вапна, вежа, гаи, жито, зброя, куделя, помста, праца, страва, цибуля,* прыметнікі *дробныи, дужии, моцныи,* дзеясловы *будовати, дяковати, мовити, працовати, шкодити* і інш. Без тлумачэння падаюцца таксама словы, якія захоўваюцца ў сучаснай рускай мове і вядомы беларускаму чытачу, напрыклад, назоўнікі *бездна, бес, брюхо, власть, враг, вред, март, птица, тоска, туча,* прыметнікі *безстыдныи, быстрыи, ветхии, щедрыи,* дзеясловы *делати, роптати, рыдати, уповати* і інш.

Пасля раскрыцця значэння слова прыводзяцца адпаведныя цытаты са скарынаўскіх кніг. Усе цытаты дакладна пашпартызаваны ўмоўнымі скарочанымі назвамі выкарыстаных кніг, напрыклад, ДЗ (-Другі закон), КБ (-Кніга Быцця); КЮ (-Кніга Юдзіф). У ілюстрацыйным матэрыяле праведзены графіка-арфаграфічная спрашчэнні. Апушчаны разнастайныя надрадковыя дыякрытычныя значкі, хоць у выданнях Скарыны некаторыя з іх мелі гукавое значэнне, напрыклад, напісанні арыгіналаў *белый, гай; пойти* ў слоўніку перададзены ў выглядзе *белыи, гаи, поити.*

У канцы многіх слоўнікавых артыкулаў змешчаны найбольш тыповыя фразеалагічныя і ўстойлівыя словазлучэнні, у склад якіх уваходзіць рэестравае слова як апорнае. Напрыклад, у слоўнікавым рэестравым артыкуле на дзеяслоў *мети (имати, имевати, имети)* выдзелены словазлучэнні *имати веру* 'верыць'; *имети карание* 'пакараць'; *имевати молитвы* 'маліцца'; *имати науку* 'валодаць навукай'; *мети правду* 'верыць'.

Слоўнік фіксуе значную колькасць амонімаў, якія афармляюцца асобнымі слоўнікавымі артыкуламі, але пазначаюцца арабскімі лічбамі: *брань*[1] вайна, бітва; *брань*[2] лаянка; *живот*[1] тое, што *жизнь; живот*[2] маёмасць, пажыткі; *живот*[3] частка цела жывой істоты.

Слоўнік мовы Скарыны служыць дапаможнікам для вывучэння моватворчай дзейнасці беларускага першадрукара Францыска Скарыны. Дзякуючы слоўніку даследчыкі атрымалі магчымасць больш дакладна вызначыць значэнне дзейнасці Скарыны ў развіцці мовы беларускай канфесіянальнай літаратуры старажытнага перыяду.

*Літ.*: Парукаў А. А. Рэц. на кн.: Анічэнка У. В. Слоўнік мовы Скарыны. Т. 1. Мн., 1977 // Бел. лінгвістыка. Мн., 1981. Вып. 19; Анічэнка У. В. Прынцыпы складання слоўніка мовы Ф. Скарыны // Праблемы мовы і літаратуры: Міжвузаўскі зб. Мн., 1972; Мурьянов М. Ф. Несколько уточнений к «Словарю языка Скорины» // Сов. славяноведение. 1989. № 4.

*А. І. Журайскі.*

## СЛУЖБОВЫЯ СЛОВЫ

Службовыя словы (прыназоўнікі, злучнікі, звязкі і часціцы) — у традыцыйнай граматыцы непаўназначныя словы, якія не маюць яскрава выражанага лексічнага значэння і ўжываюцца ў мове толькі пры паўназначных словах, у спалучэнні з імі. Іх несамастойнасць у тым, што яны звычайна не маюць уласнага націску і аб'ядноўваюцца ў адну акцэнталагічную адзінку з суседнім словам, выступаючы або як праклітыка (перад апорным націскным знамянальным словам — *ішоў па‿дарóзе*), ці як энклітыка (пасля такога слова — *перайшоў‿бы дарогу*). Акрамя таго, службовыя словы не бываюць членамі сказа (за выключэннем выпадкаў іх субстантывацыі — пераходу ў разрад паўназначных, ці самастойных).

Усе службовыя словы, акрамя звязкі, нязменныя. Яны складаюцца звычайна з адной каранёвай марфемы. Асноўныя службовыя словы паходзяць ад паўназначных, аднак часцей за ўсё гэта даказвае этымалагічны або гістарычны аналіз. Таму з пункту погляду сучаснай мовы шмат іх лічыцца невытворнымі.

Службовыя словы характарызуюцца высокай частотнасцю ў моўнай плыні. Калі за адзінку падліку прыняць слова, то прыблізна 10 % любога тэксту складаюць прыназоўнікі, амаль столькі ж — злучнікі, 1—2 % — звязкі, ад 4—5 да 12—14 % — часціцы (у залежнасці ад стылю тэксту). Усе класы службовых слоў нешматлікія, таму адразу відаць іх частая паўтаральнасць, асабліва прыназоўнікаў і злучнікаў, і роля іх важная.

Службовыя словы могуць пераходзіць у разрады формаўтваральных ці словаўтваральных афіксаў — прыстаўкі, суфіксы, аглюцінатыўныя постфіксы.

У лінгвістычнай літаратуры (М. І. Грэч, В. У. Вінаградаў) усе службовыя словы часам называюць часціцамі мовы, у адрозненне ад самастойных слоў — часцін мовы. Апошнім часам прыназоўнікі, злучнікі, звязкі і часціцы многія лінгвісты называюць непаўназначнымі словамі, а прыназоўнікі, злучнікі і звязкі — уласна службовымі словамі. Сутнасць гэтай класіфікацыі ў асноўнай прыкмеце гэтых слоў — іх сінтаксічным характары. Прыназоўнікі служаць для сувязі галоўнага і залежнага слоў у словазлучэнні, злучнікі аб'ядноўваюць аднародныя члены сказа ў цэласны рад або звязваюць часткі складанага сказа. Звязка— сродак сувязі дзейніка і выказніка, іх аб'яднання ў адно прэдыкатыўнае злучэнне — аснову простага сказа. Сярод службовых слоу вылучаюцца часціцы — гутарковыя актуалізатары тых слоў і частак сказа, на якія трэба звярнуць увагу слухача, калі якія-небудзь слова ці групу слоў трэба вылучыць, абмежаваць, акцэнтаваць. Гл. таксама **Звязка, Злучнік, Прыназоўнік, Часціцы.**

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## СМУЛКОВА ЯНІНА-ЭЛЬЖБЕТА

Польскі мовазнавец Я.-Э. Смулкова нарадзілася 24 чэрвеня 1931 г. ў г. Львоў. У 1955 г. скончыла аддзяленне польскай і славянскай філалогіі універсітэта імя М. Каперніка ў г. Торунь. Працавала асістэнткай на кафедры славянскай філалогіі гэтага



універсітэта (1955—57), старшай асістэнткай, ад'юнктам і дацэнтам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта (1957—81), адначасова (1957—61) старшай асістэнткай аддзела беларускай мовы Інстытута славяназнаўства Польскай АН. У 1971—75 гг. загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. З 1978 г. дацэнт, з 1988 г. прафесар кафедры агульнага мовазнаўства Варшаўскага універсітэта. У 1981—83 гг. член Камітэта славяназнаўства, з 1984 г.— Камітэта мовазнаўства Польскай АН. Член польскіх і замежных навуковых таварыстваў, у тым ліку і Міжнароднай Асацыяцыі беларусістаў. З 1991 г. генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Мінску, з 1992 г. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь.

Галоўныя кірункі навуковай дзейнасці Я.-Э. Смулковай — беларуская і параўнальная славянская дыялекталогія, беларуская і ўсходнеславянская акцэнталогія, тэорыя і практыка моўных кантактаў на польска-беларуска-літоўскім пагранічны, беларуская і агульная фанетыка і фаналогія.

У манаграфіі «Беларуская земляробчая лексіка» (ч. 1—2, 1968) і шматлікіх артыкулах на аснове параўнальнага аналізу беларускага дыялектнага матэрыялу з адпаведным украінскім, рускім і польскім устаноўлены гістарычныя і сучасныя дыялектныя падзелы і вызначаны семантычныя асаблівасці сялянскай земляробчай лексікі.

У манаграфіі «Даследаванне націску ў беларускай мове» (1978) раскрываецца сутнасць акцэнталагічнай дыферэнцыяцыі беларускіх гаворак, аналізуюцца адрозненні націску назоўнікаў у беларускай дыялектнай і літаратурнай мове, што мае тэарэтычнае значэнне для вырашэння многіх праблем славянскай акцэнталогіі. Супастаўляючы беларускую акцэнталагічную сістэму з украінскай і рускай, даследчыца вырашае такія праблемы, як роля прасодыі ў параўнальным апісанні славянскіх моў, суадносіны лінгвістычнай геаграфіі акцэнталогіі, і іншыя.

У сааўтарстве з В. М. Чэкманам Я.-Э. Смулкова напісала манаграфію «Фанетыка і фаналогія беларускай мовы з элементамі агульнай фанетыкі і фаналогіі» (1988).

Удзельнічала ў стварэнні канцэпцыі, зборы матэрыялаў і падрыхтоўцы «Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны» (т. 1—2. Варшава; Вроцлаў, 1980—89); «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» ( т. 1—5, 1979—86) і «Слоўніка мікратапонімаў паўночна-ўсходняй Польшчы» (Варшава, 1993).

*Тв.:* Przykłady zróżnicowania morfologicznego gwar białoruskich Białostocczyzny // Sprawozdania z prac naukowych Wydziału I PAN 1960. R 3, z 5; Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim. Wrocław etc., 1968; Ze studiów nad słownictwem białoruskim // Slavia Orientalis 1968. R 17, Nr 2; Leksykalne i słowotwórcze zróżnicowanie białoruskich nazw ścierniska // Тамсама. 1969. R. 18, Nr 1; Lituanizmy w białoruskim słownictwie rolniczym // Lingua Poznaniensis 1969. Nr 14; Лексічны паралелізм беларускіх гаворак паўночна-ўсходняй Польшчы і Прыпяцкага Палесся (з Л. Ц. Выгоннай) // Бел. лінгвістыка. Мн., 1973. Вып. 3; Да пытання аб прадказальнасці ўсходнеславянскага націску // Тамсама. 1976. Вып. 10; Z zagadnień akcentuacji wschodniosłowiańskiej // VII Międzynarodowy Kongres Slavistów. Warszawa, 1973; O systemie akcentowym w świetle faktów wshódniosłowiańskich // Biuletyń Polskiego Towarzystwa Językoznawczego. 1974. Nr 32; Akcentuacja rzeczowników w zabytku XVII-wiecznego piśmiennictwa białoruskiego «Bjasedy Makaryja» I (з В. Кунеўскай) // Acta Baltico-Slavica. 1976. Nr 10; Miejsce problematyki prozodycznej w konfrontatywnym opisie języka // Тамсама. 1979. T. 3; Frekwencja tekstowa białoruskich typów akcentuacyjnuch rzeczowników: (Na Podstawie próbek tekstów gwarówych z okolicy Witebska i Sokółki) // Тамсама. 1984. Nr 16; Konstrukcje porównawcze typu gradacyjnego w języku białoruskim // Zagadnienia kategorii stopnia w językach słowiańskich. Warszawa, 1976; Studia nad akcentem języka białoruskiego: (Rzeczownik). Warszawa, 1978; Geografia językowa a zagadnienia akcentologii // Studia z filologii rosyjskiej i słowiańskiej. 1984. T. 5; К проблеме белорусских балтизмов: О статусе балтизмов в белорусских говорах // Балтославянские исследования. М., 1981; Гаворкі ўсходняй Беласточчыны ў святле лексічных даследаванняў // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972; Uwagi do metody badań nad leksyką gwarową pogranicza językowego // Studia nad gwarami Białostocczyzny. Warszawa, 1984. Nr 27; Fonetyka i fonologia języka białoruskiego z elementami fonetyki i fonologii ogólnej. Warszawa, 1988 (з W. Czekman); Zagadnienie polsko-białorusko-litewskiej interferencji językowej na ziemiach połnocno-wschodniej Polski // Z polskich studiów sławistycznych. Warszawa, 1988. S. 7; O polsko-białoruskich związkach językowych w aspekcie czasowym i terytorialnym // Studia polsko-białorusko-litewskie. Warszawa, 1988; Problematyka badawcza polsko-białorusko-litewskiego pogranicza językowego // Studia nad polszczyzną kresową. Wrocław etc., 1990. T. 5; Polszczyzna dwujęzycznych Litwinów puńskich: (Wybrane zagadnienia) // Słowiańsko-niesłowiańskie kontakty językowe. Warszawa, 1992; Pojęcie gwar przejściowych i mieszanych na polsko-białorusko-ukraińskim pograniczu jezykowym // Dzieje Lubelszczyzny. Lublin, 1992. T. 6.

*А. С. Аксамітаў.*

## СПАЛУЧАЛЬНАСЦЬ СЛОВА

Спалучальнасць слова — гэта здольнасць слова злучацца з пэўным колам іншых слоў у адпаведнасці з нормамі, уласцівымі для дадзенай мовы, а таксама сукупнасць канкрэтных лексічных адзінак, з якімі злучаецца слова пры абазначэнні пэўнай сітуацыі.

Нават першае знаёмства з колькаснымі характарыстыкамі рознаўзроўневых элементаў нашай мовы (гукаў, слоў і словазлучэнняў) дае магчымасць выявіць істотныя адрозненні, якія існуюць паміж імі. Калі гукаў у беларускай мове толькі некалькі дзесяткаў, а слоў некалькі соцень тысяч, то складаных намінатыўных адзінак у выглядзе разнастайных словазлучэнняў практычна неабмежаваная колькасць.

Мовазнаўцы, распачаўшы даследаванне спалучальнасці слова, сваю ўвагу ў першую чаргу скіравалі на вывучэнне так званай «несвабоднай» спалучальнасці слоў у межах устойлівых словазлучэнняў і фразеалагічных выразаў. Між тым ажыццяўленне суцэльнага аналізу свабоднай спалучальнасці многіх тысяч шырокаўжывальных беларускіх слоў — справа значна больш складаная. Асобныя шматзначныя словы могуць спалучацца ў тэксце з многімі сотнямі іншых слоў. Таму вызначэнне для кожнага слова ўсёй сукупнасці лексічных адзінак, з якімі яно можа злучацца, хутчэй за ўсё з'яўляецца справай будучыні, калі для апрацоўкі велізарнай колькасці разнастайных словазлучэнняў будуць выкарыстаны электронна-вылічальныя машыны. Пакуль жа выяўлены толькі якасныя характарыстыкі спалучальнасці слова, якія дазваляюць нам дакладна вызначыць яе месца сярод іншых уласцівасцей слова. Спалучальнасць слова перш за ўсё трэба адрозніваць ад валентнасці. Калі валентнасць з'яўляецца той часткай яго значэння, якая нясе інфармацыю пра патэнцыяльныя магчымасці гэтага слова злучацца са словамі пэўных граматычных разрадаў у межах моўнай сістэмы, то спалучальнасць слова прама паказвае на яго здольнасць аб'ядноўвацца ў маўленні з

канкрэтнымі лексічнымі адзінкамі для выканання пэўнага маўленчага задання. Інакш кажучы, спалучальнасць слова — гэта рэалізацыя яго валентнасці. Так, валентныя характарыстыкі пераходнага дзеяслова дапускаюць патэнцыяльную магчымасць яго ўжывання ў сказе з прамым дапаўненнем, ускосным дапаўненнем, акалічнасцю месца і г. д. Аднак у рэальнай маўленчай плыні кожны пераходны дзеяслоў рэалізуе адназначную патэнцыяльную магчымасць пасвойму, у адпаведнасці з лексічным значэннем і індывідуальнымі спалучальнымі абмежаваннямі. Трэба таксама адрозніваць спалучальнасць слова ад яго дыстрыбуцыі. Пад апошняй звычайна разумеюць «сукупнасць усіх акружэнняў (кантэкстаў), у якіх можа сустракацца дадзеная моўная адзінка, супрацьпастаўляемых усім тым акружэнням, у якіх яна сустракацца не можа» (Ахманова О. С. Словарь лингвистических терминов. 2 изд. М., 1969. С. 137). У параўнанні з тэрмінам «дыстрыбуцыя слова» тэрмін «спалучальнасць слова» мае больш вузкае значэнне — сукупнасць лексічных адзінак, кожная з якіх можа спалучацца з дадзеным словам для выканання пэўнага сэнсавага задання. Паводле В. Порцыга, у кожнага слова ёсць сваё семантыка-сінтаксічнае поле, гэта значыць кола слоў, з якімі дадзенае слова можа спалучацца, не ўступаючы ў супярэчнасць са сваёй семантычнай і граматычнай прыродай.

У межах аднаго кантэксту ўсе словы звычайна аб'яднаны зместам, але далёка не кожная пара гэтых слоў звязана граматычна. У сваю чаргу, словазлучэнне характарызуецца як такое граматычнае спалучэнне слоў, у якім выяўляецца канкрэтная семантычная прыкмета, у аднолькавай меры ўласцівая абедзвюм часткам гэтага словазлучэння. Значыць, для ўключэння таго або іншага слова ў дыстрыбуцыю другога слова дастаткова агульнага для абодвух слоў кантэксту, памеры якога могуць вар'іраваць ад некалькіх звязаных паміж сабой слоў да некалькіх сказаў і нават абзацаў. Каб уключыць адно слова ў спектр спалучальнасці другога, патрабуецца пэўная колькасць семантычных і граматычных сувязей паміж імі. Выяўлены 4 асноўныя тыпы спалучальнасці слова: рэферэнтная, семантычная, сінтаксічная і лексічная. У аснове рэферэнтнай спалучальнасці слоў ляжыць прасторавачасавая і прычынна-выніковая блізкасць у пазамоўнай рэчаіснасці тых прадметаў, з'яў і дзеянняў, а таксама іх уласцівасцей, якія абазначаюцца гэтымі словамі. Параўнайце прадметна-паняційны змест такіх пар слоў, як *кніга — чытаць, ноч — цёмная, імчацца — хутка* і інш. Аднак рэферэнтную спалучальнасць слоў кожнай канкрэтнай мовы нельга зафіксаваць у выглядзе пэўнай сукупнасці правіл, бо яна «вызначаецца спалучальнасцю ўяўленняў аб пазамоўнай рэчаіснасці, якія ў сваю чаргу адлюстроўваюць сувязі і суадносіны саміх прадметаў, працэсаў і з'яў рэальнасці і абмежаваны грамадскім вопытам носьбіта мовы і моўнага калектыву ў цэлым. Гэты вопыт пастаянна змяняецца, і іменна па гэтай прычыне ў звычайнай мове нельга дакладна вызначыць усе магчымыя выпадкі ўжывання слова» (Міхневіч А. Я. Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы. Мн., 1976. С. 138). Вывучэннем рэферэнтнай спалучальнасці слоў звычайна займаюцца псіхолагі, псіхалінгвісты і этнолагі, якія праз мову і маўленне імкнуцца спасцігнуць механізмы нашага мыслення і законы адлюстравання ў свядомасці чалавека прадметаў і з'яў навакольнай рэчаіснасці.

Семантычная спалучальнасць слоў з'яўляецца вынікам дзеяння ў мове і маўленні закону «семантычнага дапасавання». Паводле гэтага закону 2 словы ўтвараюць семантычна правільнае словазлучэнне, калі яны маюць у сваіх значэннях агульную семантычную прыкмету. Напрыклад, *піць* можна ваду, газіроўку, квас, малако, чай і іншае пітво, а *есці* можна бульбу, гуркі, мачанку, сала, смажаніну і іншыя стравы. Прычым усе пералічаныя словы — пашыральнікі значэнняў дзеясловаў *піць* і *есці* — характарызуюцца наяўнасцю агульнай семантычнай прыкметы 'назвы ежы' і ўтвараюць адпаведную тэматычную групу слоў.

Групавую прыроду, але іншага характару, мае сінтаксічная спалучальнасць слоў. Словы лічацца сінтаксічна звязанымі, калі форма аднаго з іх залежыць ад граматычнай прыроды другога. Пад сінтаксічнай спалучальнасцю слова звычайна разумеюць «сукупнасць і ўласцівасці патэнцыяльна магчымых пры ім сінтаксічных сувязей, набор і ўмовы рэалізацыі сінтаксічных сувязей» (Котелова Н. З. Значение слова и его сочетаемость. Л., 1975. С. 81). У такім разуменні сінтаксічная спалучальнасць слова набліжаецца да паняцця валентнасці слова. Напрыклад, калі для назоўніка *год* апісваць набор сінтаксічных пазіцый, якімі звычайна характарызуюцца яго валентнасць і сінтаксічная спалучальнасць, то ў першую чаргу неабходна адзначыць магчымасць яго спалучэння з класам дзеясловаў (*год — адышоў, заканчваецца, прайшоў, праляцеў* і г. д.), а потым — з класам прыметнікаў (*мінулы, навучальны, новы, ураджайны* і г. д.) і, нарэшце, з класам назоўнікаў (*год выдання, дзяцінства, каня, нараджэння* і г. д.). Пры апісанні валентнасці і сінтаксічнай спалучальнасці, напрыклад, прыметніка *халодны* перш за ўсё трэба адзначыць яго здольнасць спалучацца з класам назоўнікаў (*халодная вада, халодны вецер, халодныя адносіны* і г. д.), потым — з класам прыслоўяў (*вельмі, даволі, занадта, зусім халодны* і г. д.) і, нарэшце, з класам дзеясловаў (*быць, застацца, зрабіцца, здавацца* і г. д.).

Лексічная спалучальнасць слова па сутнасці з'яўляецца індывідуальнай характарыстыкай гэтага слова, паколькі адлюстроўвае яго асабістую здольнасць спалучацца не з любым словам, а толькі з некаторымі. Напрыклад, існуе тэматычная група назоўнікаў, якія аб'ядноўваюцца агульнай семантычнай прыкметай 'жыллё': *будка, бярлог, вулей, нара* і інш. Аднак для абазначэння прыналежнасці пэўнага тыпу жылля выкарыстоўваюцца, як правіла, толькі адпаведныя, строга вызначаныя прыналежныя прыметнікі. Так, паводле правіл лексічнай спалучальнасці лёгка ўтвараюцца словазлучэнні тыпу *сабачая будка, мядзведжы бярлог, пчаліны вулей, мышыная нара* і інш. У той жа час відавочна штучнымі выглядаюць словазлучэнні тыпу *мышыная будка, пчаліны бярлог, сабачы вулей* і да т. п.

Правілы лексічнай спалучальнасці таго або іншага слова звычайна падаюцца ў слоўніках розных тыпаў у выглядзе найбольш тыповых словазлучэнняў, якія ўтвараюцца пры дапамозе дадзенага слова. Гэта акалічнасць дае падставы даследчыкам разглядаць лексічную спалучальнасць слова як «набор і ўмовы рэалізацыі лексічных пашыральнікаў слова; яе спалучальнасць са словамі, апісанымі ў паняццях лексікі» (Тамсама. С. 81, 83). Трэба дадаць, што з развіццём мовы колькасць правіл, якія рэгламентуюць лексічную спалучальнасць таго або іншага слова, паступова павялічваецца, чым узмацняецца ідыяматычнасць асобных словазлучэнняў. Наяўнасць такіх словазлучэнняў надае нашай мове выразнасць і нацыянальную самабытнасць, вылучае яе сярод блізкароднасных моў.

У тлумачальных, перакладных, фразеалагічных, тэрміналагічных і іншых слоўніках беларускай мовы апісваюцца не толькі лексічная, але і іншыя тыпы спалучальнасці. Аднак тыя 2—3 прыклады, якія звычайна даюцца да кожнага рэестравага слова ў гэтых слоўніках, не могуць забяспечыць сістэматычнага раскрыцця спалучальных магчымасцей слова. Больш паспяхова даследуецца спалучальнасць асобных груп беларускай лексікі. Так, у «Слоўніку эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» М. П. Пазнякова (Мн., 1988) да найбольш ужывальных назоўнікаў сабраны ледзь не ўсе прыметнікі (эпітэты), якія звычайна спалучаюцца з гэтымі назоўнікамі. Прычым словазлучэнні кожнага рэестравага назоўніка з многімі дзесяткамі прыметнікаў шырока ілюструюцца ў слоўніку прыкладамі з мастацкай лі-

таратуры, фальклору, перыядычных і навукова-даведачных выданняў.

Выяўленне спалучальных магчымасцей беларускіх слоў можна весці таксама шляхам прамога апытання носьбітаў мовы ў час адпаведных псіхалінгвістычных даследаванняў. Канчатковым вынікам такіх даследаванняў, як правіла, становіцца складанне асацыятыўных слоўнікаў. Так, у «Асацыятыўным слоўніку беларускай мовы» А. І. Цітовай (Мн., 1981) на кожнае са 150 рэестравых слоў-стымулаў прыводзіцца па некалькі соцень найбольш частых слоў-адказаў, атрыманых у выніку адпаведных псіхалінгвістычных эксперыментаў. Падобная колькасць слоў-асацыяцый, безумоўна, адлюстроўвае асноўныя спалучальныя патэнцыі кожнага рэестравага слова ў гэтым слоўніку.

*Літ.:* Котелова Н. З. Значение слова и его сочетаемость. Л., 1975; Учебный словарь сочетаемости слов русского языка. М., 1978; Плотников Б. А. Дистрибутивно-статистический анализ лексических значений. Мн., 1979. *В. К. Шчэрбін.*

## СПРАЖЭННЕ

Спражэнне — гэта змяненне дзеяслова па асобах, ліках, часах, ладах, а ў прошлым часе і ўмоўным ладзе — і па родах. Парадыгма (сістэма форм) спражэння бывае поўнай (комплекснай), калі ў яе ўваходзяць і спрагальныя формы абвеснага ладу (так званая звужаная парадыгма), і формы астатніх ладоў (разам са звужанай яны ўтвараюць пашыраную парадыгму), і формы дзеепрыметнікаў, дзеепрыслоўяў, інфінітыва. Паняццем «спражэнне» аб'ядноўваюцца прыватныя парадыгмы асобы, часу, ліку, ладу і роду.

У залежнасці ад сістэмы флексій у асабовых формах адзіночнага і множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу амаль усе дзеясловы падзяляюцца на I і II спражэнні.

Да I спражэння адносяцца дзеясловы з канчаткамі ў адзіночным ліку 1-й асобы *-у(-ю)*, 2-й *-еш(-эш, -аш)*, 3-й *-е(-э, -а)*; у множным ліку 1-й асобы *-ём(-ем, -ом, -ам)*, 2-й *-еце (-яце, -аце)*, 3-й *-уць(-юць)*. Пры спражэнні адбываецца чаргаванне заднеязычных *к — ч (пяку — пячэ — пячом — печаце — пякуць)*, *г — ж (берагу — беражэш — беражэ — беражом — беражаце — берагуць)*.

Да II спражэння адносяцца дзеясловы з канчаткамі ў адзіночным ліку 1-й асобы *-у(-ю)*, 2-й *-іш(-ыш)*, 3-й *-іць(-ыць)*; у множным ліку 1-й асобы *-ім(-ым)*, 2-й *-іце(-ыце)*, 3-й *-аць(-яць)*. Пры гэтым адбываецца чаргаванне канцавых зычных асновы *в' — ўл' (вл') (лавіць — лаўлю)*, *ф' — фл' (графіць — графлю)*, *п' — пл' (купіць — куплю)*, *м' — мл' (карміць — кармлю)*, *ц'* (з *т'*) *— ч (ляцець — лячу)*, *дз'* (з *д'*) *— дж (вадзіць — ваджу)*, *с'ц'* (з *ст'*) *— шч (расціць — рашчу)* *з' — ж (вазіць — важу)*, *с' — ш (касіць — кашу)*.

Калі асабовыя канчаткі націскныя, то спражэнне дзеяслова без цяжкасцей вызначаецца сістэмай канчаткаў прыватнай парадыгмы. Інфінітывы з ненаціскнымі канчаткамі *-іць(-ыць)* практычна адносяцца да II спражэння, за выключэннем дзеясловаў *брыць, выць, крыць, мыць, ныць, рыць, шыць*. Да гэтага ж спражэння адносяцца і дзеясловы *гнаць, ламаць, вярцець, рупець, ненавідзець*.

Па асобых тыпах змяняюцца 3 дзеясловы: *быць* (фактычна страціў формы 1-й і 2-й асобы адзіночнага ліку, акрамя 3-й — *ёсць* і ўсіх 3 асоб множнага ў цяперашнім часе), *есці* і *даць* [змяняюцца па старажытным нетэматычным (атэматычным) спражэнні: *ем — ясі — есць — ядзім (ямо) — ясце (ясцё) — ядуць; дам — дасі — дасць — дадзім (дамо) — дасце (дасцё) — дадуць*].

Дзеяслоў *бегчы* рознаспрагальны: формы 3-й асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу ўтвараюцца па мадэлі I спражэння: *бягуць*, а ўсе астатнія асабовыя формы — па мадэлі II спражэння: *бягу — бяжыш — бяжыць — бяжым — бежыце*.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1962; Шуба П. П. Дзеяслоў у беларускай мове. Мн., 1968; Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. *П. П. Шуба.*

## СТАН ДЗЕЯСЛОВА

Стан — катэгорыя дзеяслова, якая перадае адносіны дзеяння да суб'екта і аб'екта і выражаецца ў спецыяльных формах дзеяслова і сінтаксічным канструяванні сказа. Так, у выразах *Хлопчык малюе ружу; Хлопчык намаляваў ружу* дзеянне ўтварае суб'ект (хлопчык); назоўнік *хлопчык*, які называе вытворцу дзеяння, выражаны формай назоўнага склону. У выразах *Ружа малюецца хлопчыкам; Ружа намалявана хлопчыкам* суб'ект дзеяння выражаны формай творнага склону. У першых двух выразах, якія лічацца актыўнымі канструкцыямі, дзеяслоў мае значэнне н е з а л е ж н а г а стану, а ў наступных двух, якія прынята называць пасіўнымі канструкцыямі,— зваротны дзеяслоў або дзеепрыметнік (як асобая форма дзеяслова) маюць значэнне з а л е ж н а г а стану.

Дзеясловы незалежнага стану не маюць спецыфічных сродкаў выражэння станавага значэння, дзеясловы ж залежнага стану выражаюць гэта значэнне або постфіксам *-ся(-ца)*, або формай дзеепрыметніка. Утварэнне зваротных дзеясловаў са значэннем залежнага стану пры дапамозе постфікса *-ся(-ца)* у беларускай мове нерэгулярнае.

У апошніх даследаваннях па марфалогіі дзеяслова лічыцца, што катэгорыя стану ахоплівае ўсе дзеясловы — як тыя, што маюць суадносныя паводле стану парны дзеясловы, так і тыя, што выражаюць значэнне толькі пэўнага стану і пары не маюць.

Да незалежнага стану адносяцца:

— пераходныя дзеясловы: *будаваць, касіць, трымаць, штурхаць, расказваць, любіць, кахаць* і пад. Гэта група ў незалежным стане асноўная, такія дзеясловы здольныя спалучацца з прамым дапаўненнем: *Мікола бачыў ужо з-за плоту старую грушу на сваім двары* (М. Лынькоў);

— непераходныя дзеясловы, у якіх непераходнасць не выражана постфіксам *-ся(-ца)*: *гандляваць, сталярнічаць, камандаваць, ісці, бегчы, стаяць, спаць, замярзаць, світаць* і пад.: *З рэчкі патыхае вільгаццю* (А. Асіпенка);

— непераходныя дзеясловы, у якіх непераходнасць выражана фармальна, гэта значыць зваротныя дзеясловы: *прывітацца, мыцца, рухацца, асмеліцца* і інш., у тым ліку безасабовыя зваротныя дзеясловы *спіцца, жывецца, працуецца* і інш.; толькі зваротныя дзеясловы (reflexiva tantum): *баяцца, саромецца, смяяцца* і інш., у тым ліку і безасабовыя: *няможацца, нездаровіцца* і інш.: *І ён пачаўся — новы век: у высь касмічнага прастору падняўся першы чалавек* (Н. Гілевіч); *І хоць нейкае нечуванае багацце раптоўна і не прыйшло, але праз усе гады добра елася і пілося, добра працавалася і слаўна дыхалася цудоўным скіп'ёўскім паветрам* (К. Чорны).

Да залежнага стану адносяцца:

— зваротныя дзеясловы, якія ўжываюцца ў пасіўных канструкцыях і спалучаюцца з творным склонам дзеючай асобы (з так званым творным суб'екта): *будуецца рабочымі, пішацца мастаком;*

— дзеепрыметнікі, якія характарызуюцца спалучальнасцю з творным суб'екта: *збудаваны рабочымі, напісаны мастаком.*

Такім чынам, суадносныя паводле стану пары могуць утвараць толькі прамапераходныя дзеясловы. Усе ж непераходныя дзеясловы вызначаюцца як аднастанавыя: яны не маюць і не могуць мець суадносных адпаведнікаў залежнага стану.

Дзеясловы залежнага стану абмежаваны ва ўжыванні. Звычайна яны выкарыстоўваюцца ў форме 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга ці будучага часу, у формах прошлага часу і ў формах залежных дзеепрыметнікаў. Формы загаднага ладу, інфінітыва і дзеепрыслоўя надзвычай малаўжывальныя. Выразнасць залежнага значэння знаходзіцца ў прамой сувязі з тым, што абазна-

чае аб'ект у форме творнага склону — асобу ці неадушаўлёны прадмет. Калі гэты аб'ект — асоба (а таксама персаніфікаваны прадмет ці паняцце), тады значэнне залежнасці выразнае: *Словы пайтараліся рэхам.* Творны дзеючай асобы можа быць прапушчаны, але ён лёгка падразумяваецца. Параўнайце: *Аўтобусы спыняюцца па просьбе пасажыраў* (гэта значыць спыняюцца вадзіцелямі). Залежныя канструкцыі мала характэрны размоўнаму стылю і мове мастацкай літаратуры. Ужыванне іх рэдка выходзіць за межы дзелавога і публіцыстычнага стыляў.

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Ш у б а П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. *П. П. Шуба.*

## СТАНКЕВІЧ ЯН



Беларускі мовазнавец, гісторык, педагог, грамадскі дзеяч Я. Станкевіч (псеўданімы Брачыслаў Скарыніч, П. Вайцюлевіч) нарадзіўся 26 лістапада 1891 г. ў с. Арляняты Смаргонскага раёна. Скончыў Ашмянскае гарадское вучылішча, беларускія настаўніцкія курсы ў Слуцку (1920), Карлаў універсітэт у Празе па спецыяльнасцях славянскае мовазнаўства і гісторыя, дзе атрымаў ступень доктара філасофіі (1926). Надзвычайны прафесар славянскай філалогіі Украінскага вольнага універсітэта ў Мюнхене (1946). Да беларускага руху далучыўся з 16 гадоў. Быў карэспандэнтам і супрацоўнікам «Нашай нівы». У 1917 г. ўвайшоў у Віленскую беларускую раду, удзельнічаў у заснаванні Беларускага навуковага таварыства (БНТ) у Вільні (1918). У сакавіку 1918 г. ў Мінску прымаў удзел у пасяджэннях Рады БНР. Уваходзіў у склад беларускай квоты Літоўскай Тарыбы (парламента; з 1918); працаваў школьным рэферэнтам беларускага аддзела пры міністэрстве асветы так званай Сярэдняй Літвы (1920—22), адкрыў на Віленшчыне больш за 200 беларускіх школ. Пасля вучобы ў Празе (1922—26) выкладаў беларускую мову ў Віленскай беларускай гімназіі, праваслаўнай духоўнай семінарыі, у Віленскім і Варшаўскім універсітэтах; удзельнічаў у працы БНТ, Таварыства прыяцеляў беларусаведаў пры Віленскім універсітэце, мовазнаўчай секцыі Навукова-даследчага інстытута Усходняй Еўропы ў Вільні. Арганізоўваў «Зборкі пазнаньняй чысьціні беларускае мовы». У 1930—31 гг. выдаваў у Вільні першы беларускі мовазнаўчы часопіс «Родная мова» (гл. **«Родная мова»**). У час другой сусветнай вайны займаўся навуковай, выкладчыцкай дзейнасцю, выданнем падручнікаў, слоўнікаў. Удзельнічаў у беларускім нацыянальным падполлі. Пасля вайны ў г. Рэгенсбург (Германія) вёў народны універсітэт, заснаваў «Крывіцкае навуковае таварыства Пранціша Скарыны». Працаваў у беларускай гімназіі і Украінскім вольным універсітэце ў Мюнхене. З 1949 г. ў Нью-Йорку. Выдаваў навуковы часопіс «Веда» (1951—54; 1973) і часопіс «Незалежнік» (Нью-Джэрсі, 1965—66). З канца 1950-х гадоў да 1973 г. з пастарам М. Гітлінам пераклаў на беларускую мову Біблію. Заснаваў «Вялікалітоўскую Фундацыю ймя Лява Сапегі» для падтрымкі беларусазнаўства. Памёр 16 ліпеня 1976 г.

Я. Станкевіч — найбольш яскравы прадстаўнік пурыстычнай плыні беларускага мовазнаўства. Вучоны з разнабаковымі інтарэсамі і творчым мысленнем, ён аўтар больш як 150 артыкулаў і кніг па праблемах беларускага правапісу, лексікалогіі, дыялекталогіі, лінгвагеаграфіі, гісторыі мовы, складальнік слоўнікаў і падручнікаў. Вынікі даследаванняў імкнуўся рэалізаваць у правапісных, лексічных, сінтаксічных рэкамендацыях.

Пурыстычныя погляды Я. Станкевіча выявіліся ўжо ў лемантары «Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным» (з Р. Абіхтам, 1918), дзе прапаноўвалася радыкальная рэформа беларускай графікі. Наступныя падручнікі — «Biełaruski prawapis» (з А. Луцкевічам, 1918), «Nowy Lemantar dla biełaruskich dzietak» (1—3 выд., 1918—20), «Беларуская правапісь з практыкаваньнямі» (кн. 1, 1921) — мелі больш традыцыйны характар, аднак утрымлівалі шэраг графічных, правапісных, марфалагічных навацый, большасць якіх аўтар развіваў і прапагандаваў надалей.

У правапісе Я. Станкевіч імкнуўся да фанетызму. Паслядоўна абазначаў пераход [і] у [j] пасля галосных, рабіў спробы ўвесці фанетычныя напісанні прыставак на з *(шшыць, рашчытаць, ражжыцца)*, пазначаць прыстаўны [j] *(йіншы)*, адзін з першых распаўсюдзіў паказ пераходу ненаціскнога [э] у [а] на запазычанні *(літаратура, характарны)*. Сярод пытанняў фанетыкі і арфаэпіі, што вывучаў Я. Станкевіч,— з'яўленне ўстаўнога [j] паміж галоснымі і зубнымі *(войстры, крэйда, Жойдзішкі)*, якое даследчык тлумачыў артыкуляцыйнымі прычынамі; дыспалаталізацыя [л] перад суфіксамі *(вучыцелка, колца, кавалства)* і інш. Даследаваў і сістэматызаваў міжслоўныя фанетычныя змены: ужыванне пратэтычных [j], [в], у тым ліку пасля прыназоўніка *у* [настойваў на яго арфаграфічным пазначэнні *(у вайсе, быў ув Амэрыцы)*], пратэтычных галосных. Аддаваў шмат увагі акцэнталогіі і ўпершыню ўвёў адпаведны раздзел у падручнік беларускай мовы (1946).

Погляды на марфалогію літаратурнай мовы Я. Станкевіч выклаў у палемічным аглядзе «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча (Родная мова. 1930. № 5) і ў «Падручніку крывіцкае (беларускае) мовы» (ч. 1—3. Рэгенсбург, 1946). Прапанаваў сістэму з 5 скланенняў назоўнікаў, заснаваную на гістарычных тыпах асноў. Сістэматызаваў ужыванне канчатка *-у* назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку, пашырыў канчатак меснага склону адзіночнага ліку *-у* на большасць назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду. У родным склоне множнага ліку генералізаваў канчаткі *-аў, -ей* на ўсе скланенні назоўнікаў *(моваў, кроснаў, любасьцей, чалавекаў*; выключэнні — *рук, ног, гасьцей)*.

Пошукі Я. Станкевіча ў галіне лексікалогіі вызначаліся нацыянальна-рамантычнымі памкненнямі: ён вяртаў да жыцця і пашыраў старабеларускую лексіку Літоўскай метрыкі і «Аль-Кітаба», дыялектны матэрыял роднай гаворкі, слоўнікаў У. Даля, І. Насовіча і інш., ствараў словы паводле прадуктыўных словаўтваральных мадэлей, прапаноўваў варыянты нават для найбольш пашыраных, у тым ліку службовых слоў: *праз* 'пра', *пераз* 'праз', *бодка* 'пункт, кропка', *ходаньне* 'барацьба, змаганне', *жарало* 'крыніца'. Шмат якія словы, уведзеныя ва ўжытак Я. Станкевічам, сталі нормаю літаратурнай мовы ў міжваеннай Заходняй Беларусі, эміграцкіх колах, з'явіліся ў літаратурнай мове сучаснай Беларусі *(гаспадарства, летувіскі, спадар, сумлей* і інш.).

Вынікі лексікалагічных пошукаў Я. Станкевіч замацоўваў у лексікаграфічных працах. Ён выдаў «Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак фразэолёгічны» (з Ан. Адамовічам, Мн., 1944; 3 выд. 1992) з беларускімі эквівалентамі рускім устойлівым словазлучэнням і прыказкам (каля 250 ар-

Др. Я. Станкевіч

БЕЛОРУССКО - РУССКИЙ
(Великолитовско - русский)
СЛОВАРЬ
......
БЕЛАРУСКА - РАСІЙСКІ
(Вялікалітоўска - расійскі)
СЛОЎНІК

BYELORUSSIAN - RUSSIAN
(Greatlitvan - Russian)
DICTIONARY

by Dr. J. Stankevich

Published by Lew Sapicha Greatlitvan (Byelorussian) Foundation. New York.

LIBRARY OF CONGRESS CATALOG CARD NO 89 092248

**Я. Станкевіч. «Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік». Тытульны ліст. 1990.**

тыкулаў) — першая падобная праца ў беларускім мовазнаўстве. У 1953 г. Я. Станкевіч выдаў слоўнік «Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія», у якім на аснове старабеларускага матэрыялу і дыялектнай лексікі распрацавана больш за 400 юрыдычных тэрмінаў. У працы «Хрышчоныя ймёны вялікалітоўскія (беларускія)» (Запісы Бел. Ін-та навукі і мастацтва. Кн. 2, Мюнхен, 1963) змешчана больш за 600 беларускіх імён з вытворнымі варыянтамі.

Выніковай лексікаграфічнай працай Я. Станкевіча стаў «Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік» (больш за 60 тысяч артыкулаў), апрацаваны і выдадзены пасля смерці аўтара яго сынам Ю. Станкевічам (Нью-Йорк, 1990). Сюды ўвайшлі матэрыялы, выбраныя з іншых слоўнікаў: І. Насовіча, У. Даля, М. Гарэцкага, М. Байкова, М. Каспяровіча, М. Шатэрніка, а таксама сабраныя аўтарам са старабеларускіх крыніц, у дыялекталагічных экспедыцыях, з мастацкай літаратуры. Беларускім лексемам даюцца часам разгорнутыя тлумачэнні, этымалагічныя экскурсы, пашпартызаваныя прыклады. Аўтар не ставіў задачы стварыць нарматыўны слоўнік, гэта хутчэй творчы збор моўных фактаў шырокага прасторавага і часавага аб'ёму, які працягвае шэраг, распачаты аўтарскімі слоўнікамі І. Насовіча і В. Ластоўскага.

Я. Станкевіч зрабіў важкі ўклад у фарміраванне і развіццё беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі. У 1918 г. ў працы «Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным» увёў тэрміны, якія потым стала замацаваліся: *гукі, галосныя, зычныя*.

Пытанням культуры мовы прысвечаны шматлікія артыкулы і асобныя выданні Я. Станкевіча: «Як правільна гаварыць і пісаць пабеларуску» (Вільня, 1937), матэрыялы «Зборкаў пазнаньня й чысьціні беларускае мовы» пры «Моваведнай сэкцыі» Крывіцкага навуковага таварыства і пастановы апошняй, друкаваныя ў часопісе «Веда».

Вучоны аспрэчваў традыцыйны падзел славянскіх моў на 3 групы і існаванне агульнаўсходнеславянскай мовы, выводзіў беларускую мову ад дыялекта праславянскай.

Я. Станкевіч быў адным з першых мовазнаўцаў, хто займаўся вывучэннем мовы кітабаў. Фанетычныя, граматычныя і лексічныя асаблівасці мовы «Аль-Кітаба» выкарыстоўваў у моўнай практыцы і ў пабудове свайго «варыянта» беларускай літаратурнай мовы (*дзевяцьдзесят, із* 'з', *сьці* 'чэсці' і інш.). Вывучэнне жывой старабеларускай мовы паводле помнікаў, напісаных арабскім пісьмом, дало даследчыку падставу сцвярджаць пра існаванне беларускага варыянта царкоўнаславянскай мовы са сваімі вымаўленчымі нормамі і вызначыць іх у артыкуле «Беларуская вымова царкоўна-славянскага пісьма» (Родная мова, 1931. № 6).

Цыкл прац Я. Станкевіча прысвечаны вызначэнню сучасных межаў распаўсюджання беларускай мовы і праблемам беларуска-ўкраінскага і беларуска-рускага моўнага размежавання.

У сваіх падручніках, дапаможніках, слоўніках, лемантарах вучоны па сутнасці распрацоўваў самастойны варыянт беларускай літаратурнай мовы. Пры гэтым ён арыентаваўся на пэўныя ідэальныя патрабаванні і не заўсёды лічыўся з рэальнымі ўмовамі функцыяніравання мовы, што вяло да непаразуменняў і недаацэнкі яго дзейнасці. Між тым навуковы і грамадскі ўклад вучонага ў справу развіцця і пашырэння беларускай мовы вельмі значны. Многія яго правапісныя, граматычныя і словаўтваральныя рэкамендацыі, парады па культуры мовы сталі нарматыўнымі ў беларускай мове, асабліва ў літаратурнай мове сучаснай эміграцыі.

*Тв.:* Дыспаляталізацыя *l* у беларускай мове // Зап. аддз. гуманіт. навук Ін-та беларускай культуры. Мн., 1928. Кн. 2. Працы клясы філёлёгіі. Т. 1; Апытальнік да зьбіраньня дыялектычных і некаторых агульных асаблівасьцеў беларускага (крывіцкага) языка. Вільня, 1935; Зьмена граматыкі беларускага языка ў БСРР. Вільня, 1936; Гісторыя беларускага языка. Вільня, 1939; Lemantar pierachodny z łacinicy na kirylicu. Мп., 1941; Этнаграфічныя й гісторычныя тэрыторыі й граніцы Беларусі. New-York, 1953; Доля мовы беларускае (яе вонкашняя гісторыя) у розныя пэрыяды гісторыі Беларусі. Нью-Ёрк, 1954; Моўная палітыка бальшавікоў у Беларускай ССР // Беларускі зборнік. Мюнхэн, 1955. Кн. 2; Пскоўскі дыялект // Запісы Бел. Ін-та навукі й мастацтва. Мюнхэн. 1962. Кн. 1; З украінскіх дачыненьняў да Вялікалітвы-Беларусі. New-York, 1970; Аканьне — балцкая рыса ў мове вялікалітоўскай. Мюнхэн, 1971.

*В. Вячорка, С. Шупа.*

# СТАРАБЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА

Старабеларуская літаратурная мова — яркая з'ява ў гісторыі нацыянальнай моўнай культуры беларускага народа. Яна склалася паралельна з вылучэннем старарускай і стараўкраінскай літаратурных моў у выніку фарміравання 3 братніх народаў — беларускага, рускага і ўкраінскага. З'ўлялася афіцыйнай мовай Вялікага княства Літоўскага, што было заканадаўча аформлена Статутамі 1566 і 1588 гг. Выкарыстоўвалася ў разнастайных грамадскіх сферах, найперш у заканадаўстве і дзяржаўнай перапісцы, свецкай і рэлігійнай літаратуры, на ёй вяліся казанні ва уніяцкай царкве і г. д. Засведчана шматлікімі пісьмовымі помнікамі, рукапіснымі і друкаванымі.

Сваю назву — «старабеларуская літаратурная мова» — атрымала параўнальна нядаўна. На працягу 19 ст. і нават яшчэ ў першай палавіне 20 ст. даследчыкі, асабліва рускія, называлі яе заходнярускай мовай («западнорусским языком»), што затушоўвала яе нацыянальную прыналежнасць. У помніках яна па традыцыі называецца «рускай», «простай», «простай малвой», «простым рускім дыялектам» у адрозненне ад царкоўнаславянскай мовы — «языка словенского» або «славянорусского», «славянороссийского». Зрэдку (галоўным чынам па-за межамі краіны) яе называлі «літоўскай мовай» (ад назвы дзяржавы, у якой яна выкарыстоўвалася). Назва «беларуская» як лінгвонім з'явілася даволі позна, спачатку ў замежных крыніцах. Сучасны тэрмін «старабеларуская літаратурная мова» (гэтаксама як і «стараруская...», «стараўкраінская...») трэба адрозніваць ад падобнага тэрміна з кампанентам «старажытная», якім абазначаецца больш ранняя эпоха ў гісторыі ўсходніх славян, калі яны карысталіся агульнай літаратурнай мовай, якую звычайна называюць старажытнарускай.

Перыяд фарміравання і развіцця старабеларускай літаратурнай мовы ахоплівае вялікі адрэзак часу, амаль паўтысячагоддзе. За такі доўгі перыяд адбываліся змены і ва ўмовах яе функцыяніравання, і ў сферах выкарыстання, і ва ўзаемаадносінах з іншымі мовамі. Змянялася, натуральна, і само яе абліччa — лексіка-фразеалагічны склад і правапісна-граматычныя рысы, стылістыка, сродкі і прыёмы літаратурнага выказвання. Зме-

ны адбываліся паступова, шляхам пераемнасці паміж старым і новым, пры адсутнасці строга вызначаных літаратурных нормаў, якія ў наш час выразна акрэсліваюць структуру мовы і даюць магчымасць адмяжоўваць яе ад іншых блізкароднасных моў. З гэтай прычыны цяжка вырашаюцца такія кардынальныя праблемы гісторыі старабеларускай літаратурнай мовы, як яе перыядызацыя, сувязь з народнай гаворкай, адносіны да іншых моў, сістэма функцыянальна-стылістычных разнавіднасцей на розных гістарычных этапах.

Існуюць розныя погляды, з якога часу можна ўжо гаварыць пра ўласна беларускую літаратурную мову, бо на Беларусі яшчэ доўга захоўваліся традыцыі старажытнарускага пісьменства. Яны забяспечвалі пераемнасць формаў і прыёмаў літаратурнага выказвання, устойлівасць літаратурных нормаў, ахоўвалі іх ад пранікнення вузкамясцовых рыс, стрымлівалі працэс пашырэння ў літаратурным ужытку розных моўных інавацый. Аднак мясцовыя моўныя рысы так ці інакш заўсёды пранікалі ў пісьмовыя помнікі. У 13 ст. тыповыя беларускія моўныя рысы — з'ява ўжо звычайная ў полацкіх і смаленскіх граматах (Смаленшчына ў той час этнічна цесна змыкалася з Полаччынаю, дапускаюць нават існаванне ў гэтым арэале асобнага смаленска-полацкага дыялекту). У адным з першых такіх помнікаў — Дагаворнай грамаце смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгаю і Гоцкім берагам 1229 г.— адлюстравалася, напрыклад, такая характэрная рыса беларускай мовы, як пераход *в* у *у* нескладовае ў закрытым складзе: *уздумалъ, у вьрхъ, у низъ, у Смольнѣскѣ, у Ризѣ*. Падобныя моўныя з'явы можна сустрэць нават у некаторых рэлігійных кнігах, мова якіх вызначалася асаблівай кансерватыўнасцю. Спецыфічныя беларускія рысы пранікалі найперш у помнікі канцылярска-юрыдычнага зместу — розныя запісы, граматы, заканадаўчыя творы і г. д., якія былі непасрэдна звязаны са штодзённым жыццём народа. На жаль, такіх помнікаў 13 ст. з іншых рэгіёнаў Беларусі не захавалася. Ад 14 ст. разам са смаленска-полацкімі граматамі дайшлі да нас дакументы, напісаныя ў Маладзечне, Слуцку, Мсціславе, а таксама ў Вільні і Троках, дзе выдаваў розныя акты князь Вітаўт. Актавае і юрыдычнае пісьменства наступных стагоддзяў вызначаецца значна шырэйшай геаграфіяй, намнога большым аб'ёмам і разнастайнасцю зместу і вельмі яскравай нацыянальнай моўнай адметнасцю.

Пры вызначэнні хранагалагічных рамак старабеларускай літаратурнай мовы ўлічваюцца, у першую чаргу, моўныя паказчыкі помнікаў. Аднак нельга не браць пад увагу і тыя гістарычныя ўмовы, якія прадвырашалі зрухі ў пісьмова-моўным развіцці ўсходніх славян: утварэнне на тэрыторыі іх рассялення дзяржаўных фарміраванняў і складванне новых формаў грамадска-палітычнага і эканамічнага жыцця, новых культурных традыцый. Такі шырокі падыход дазваляе вызначыць пачатак гісторыі старабеларускай літаратурнай мовы ў дыяпазоне некалькіх стагоддзяў — ад 13 да 15 уключна. Сярэдняе паміж імі будзе, відаць, найбольш прымальным.

Перыяд развіцця старабеларускай літаратурнай мовы звычайна заканчваюць 17 ст., калі ўлады Рэчы Паспалітай забаранілі ўжываць беларускую мову (1696 г.) у сферах афіцыйнай перапіскі. Не зусім дакладна вызначана месца 18 ст. ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Гэта стагоддзе ў параўнанні з папярэднімі намнога бяднейшае на беларускамоўныя помнікі. У іх ліку — невялікая колькасць дакументаў, напісаных галоўным чынам на ўсходніх землях Беларусі, некалькі твораў рэлігійнага зместу, ананімныя вершы і інш. Галоўнае месца сярод іх займаюць так званыя інтэрмедыі — новы жанр літаратуры, які пачаў складвацца ў 17 ст. Напісаны яны паза ўплывамі пісьмова-кніжных традыцый, жывой гутарковай мовай і гэтым збліжаюцца з творамі беларускай літаратуры першай паловы 19 ст. Таму некаторыя даследчыкі схільны пачынаць з гэтых помнікаў гісторыю новай (сучаснай) беларускай літаратурнай мовы. Іншымі 18 ст. разглядаецца на стыку старой і новай эпох у гісторыі нацыянальнага пісьменства: у гэты час канчаткова спынілася развіццё стылістычна-моўных традыцый старога беларускага пісьменства і пачалося фарміраванне новых літаратурных жанраў, новых прыёмаў і спосабаў выказвання, непараўнальна цясней звязаных з моватворчасцю народа. У 19 ст. ў новых гістарычных умовах жыцця беларускага народа гэты працэс узмацніўся і набыў больш разнастайныя формы, што ўрэшце прывяло да складвання новай беларускай літаратурнай мовы.

У параўнанні з сучаснай старабеларуская літаратурная мова адметная не толькі з боку архаічнасці сваёй структуры. Хоць яна і фунцыяніравала ў розных сферах грамадскага жыцця, аж да дзяржаўных уключна, сацыяльная база яе была вузкай: ёю карысталася параўнальна невялікая частка грамадства, паколькі народныя масы былі пераважна непісьменныя. Галоўнае ж — яна не апіралася так паслядоўна, як у наш час, на жывую моватворчасць народа, яе сродкі не былі належным чынам упарадкаваны (не існавала навукова распрацаваных і замацаваных у адпаведных даведніках нормаў словаўжывання, правапісу і граматыкі). Непаслядоўнасць ва ўжыванні моўных сродкаў, шырокія магчымасці іх вар'іравання — характэрная рыса амаль кожнага помніка. Новае можа суіснаваць у ім побач з устарэлым, тыповае — з выпадковым, запазычаным з іншай мовы без асаблівай на тое патрэбы. Такая з'ява назіраецца і ў помніках іншых тагачасных моў. На гэтай падставе некаторыя вучоныя наогул адмаўляюць правамернасць ужывання тэрміна «літаратурная мова» ў дачыненні да ранніх эпох у развіцці пісьменства. Аднак пры ўсім гэтым мова старога беларускага пісьменства мела адзнакі літаратурнасці: яна прызначалася для шырокіх моўных зносін, была арыентавана на носьбітаў розных дыялектаў, вызначалася пэўнай ступенню літаратурнай апрацаванасці.

Тым не менш з-за адзначанай спецыфікі ўскладняецца размежаванне такіх блізкіх літаратурных моў, як беларуская, з аднаго боку, і руская, украінская, царкоўнаславянская — з другога. У пісьмовых помніках межы паміж гэтымі мовамі часам аказваюцца размытымі. Таму, напрыклад, вядуцца спрэчкі, на якой мове выдаваў Ф. Скарына Біблію — на царкоўнаславянскай у яе беларускім варыянце ці на літаратурнай старабеларускай мове ў яе славянізаванай разнавіднасці. Сярод некаторых вучоных існуе і такое меркаванне, што беларусы і ўкраінцы ў складзе Вялікага княства Літоўскага спачатку карысталіся наогул адзінай літаратурнай мовай — «рускай», якая склалася ў сферах юрыдычна-заканадаўчага і канцылярска-дзелавога пісьменства гэтай агромністай дзяржавы, і толькі з другой паловы 16 ст. яе мясцовыя варыянты прывялі да ўтварэння дзвюх літаратурных моў — старабеларускай і стараўкраінскай. Аднак агульнасць многіх працэсаў літаратурна-моўнага развіцця беларусаў і ўкраінцаў у старажытны перыяд не можа служыць падставай для адмаўлення права кожнаму з гэтых народаў на ўласную гісторыю літаратурнай мовы.

Розныя меркаванні выказваюцца адносна дыялектнай асновы старабеларускай літаратурнай мовы. Акадэмік Я. Ф. Карскі ў сваіх шматлікіх працах адзначаў, што з пачатку свайго існавання літаратурна-пісьмовая мова Вялікага княства Літоўскага развівалася пераважна ў Вільні на аснове гаворак Віленшчыны, якую ён адносіў да беларускай моўнай тэрыторыі. Ёсць думка, што афіцыйная пісьмовая мова княства ўзнікла на аснове гаворак заходняй часткі былой Полацкай зямлі. Зараз усё настойлівей падкрэсліваецца вялікае значэнне гарадскіх кайнэ (інтэрдыялектнага сплаву) у фарміраванні старажытных літаратурных моў, у прыватнасці кіеўскага кайнэ — у фарміраванні старажытнарускай літаратурнай мовы, віленскага — старабеларускай.

Выкарыстоўваючыся ў розных сферах грамадскага і дзяржаўнага жыцця, старабеларуская літаратурная мо-

ва выпрацавала разгалінаваную сістэму функцыянальна-стылістычных разнавіднасцей. Вядучую ролю ў гэтай сістэме выконвала мова актавага і юрыдычнага пісьменства. Яно было найбольш шырокай сферай прымянення старабеларускай літаратурнай мовы. Менавіта ў практыцы справаводства і заканадаўства выпрацоўваліся характэрныя рысы старабеларускай літаратурнай мовы, папаўнялася грамадска-палітычная, дзяржаўная і юрыдычная тэрміналогія, лексіка і фразеалогія штодзённага жыцця, іншыя сродкі літаратурнага выказвання, хоць нельга не ўлічваць і таго, што моўныя сродкі тут не атрымлівалі належнай мастацкай апрацоўкі, бо змест допісаў, прыёмы іх афармлення прымушалі пісца прытрымлівацца пэўных стэрэатыпаў.

Мова іншых тагачасных літаратурных жанраў не адасаблялася ад мовы канцылярска-юрыдычнага пісьменства, ад тых інавацый, якія ў ім развіваліся. Аднак для кожнага жанру — летапісання, мемуарыстыкі, мастацкага апавядання і навуковай прозы, рэлігійных твораў і г. д.— былі выпрацаваны адпаведныя формы і прыёмы літаратурнага выказвання, адметная сістэма моўна-выяўленчых сродкаў. Многае залежала ад асабістых густаў пісьменнікаў, ад таго, на якія крыніцы яны арыентаваліся — вусна-гутарковыя ці, наадварот, кніжна-пісьмовыя. Асобныя помнікі ў гэтых адносінах маглі рэзка адрозніваіца нават у рамках аднаго і таго ж жанру, што стварала пэўную моўна-стылістычную стракатасць. Але пры ўсім гэтым старабеларуская літаратурная мова з поспехам абслугоўвала тыя запатрабаванні, якія ставіліся перад ёю як сродкам зносін і літаратурнай творчасці. Яна была вядома далёка за межамі Вялікага княства Літоўскага, аказвала ўплыў на іншыя літаратурныя мовы, напрыклад на літаратурную мову Маскоўскай дзяржавы.

Пэўнае ўяўленне аб яе «выглядзе» ў розныя часы могуць даць наступныя ўрыўкі з помнікаў. Вось урывак з граматы Вітаўта ад 1383 г., напісанай у «Полотску»: *Милостію Божею, мы велики князь Витовтъ вѣдомо чинимъ каждому доброму, кто коли на сесь листъ позритъ, аже есмо допустили садити село Княжую Луку, на сыром корони, у Подольской земли, у Каменецком повѣтѣ, межи реками Морашками, до берега Морашки Сенковской, зъ лѣсомъ... аже потоля гдѣ упадаетъ Морашка Санковская у Морохву Великую, Василевы Карачковскому, слузѣ нашему...*

У гэтым даволі раннім дакуменце адлюстраваліся не толькі асобныя лексічныя і фанетыка-граматычныя рысы беларускай мовы (пры традыцыйнай для ўсходнеславянскага пісьменства арфаграфіі), але і некаторыя тыповыя беларускія спалучэнні слоў: *вѣдомо чинимъ, аже потоля гдѣ, слузѣ нашему* і інш. Яны зблiжаюць мову помніка з народнай гаворкай, надаюць яму своеасаблівы каларыт у параўнанні з помнікамі старажытнарускага перыяду.

А вось урывак з «Прамовы Мялешкі» — палітычнага памфлета пачатку 17 ст.: *А за моей памети прысмаковъ гетыхъ не бывало; добра было: гуска съ грыбками, кашка зъ перчыкомъ, печонка зъ цыбулькою или зъ чосныкомъ, а коли на перепышные достатки — каша рыжовая* [*рысавая*]*зъ шафраномъ*. Гэты ўрывак чытаецца лёгка, ён напісаны тымі ж лексічнымі і фразеалагічнымі сродкамі, якія ўжываюцца і зараз. Мову яго аддаляе ад сучаснай толькі правапіс; калі ж перадаць урывак сучаснай арфаграфіяй, то яго мова амаль нічым не будзе адрозніваіца ад сучаснай.

Характэрныя асаблівасці старабеларускай літаратурнай мовы выразна праяўляюцца пры параўнанні яе з іншымі блізкімі мовамі. Такая магчымасць ёсць, паколькі захаваліся пераклады айчынных помнікаў на іншыя мовы. Возьмем, напрыклад, урывак з летапісу Вялікага княства Літоўскага (паводле спісу Рачынскіх 16 ст.) і яго пераклад на тагачасную рускую мову. Беларускі тэкст: *И змовили кнзь Скиргаило а кнзь великии Витовт з братею своею... И рекли так: «Боже вышнии, поможы намъ над непрыятелъми нашими. Мы зла никому не вчынили...»* Рускі пераклад: *Зжалился князь велики о семь Скиригаила и совѣтова с братьею и со князми и з бояры, глаголя: «Мы убо ему не сотворихъ зла ничто же...»*

Рускі пераклад у параўнанні з беларускім тэкстам насычаны рознымі архаічнымі зваротамі (*мы убо ему не сотворихъ зла ничто же, зжалился о семь*) і граматычнымі формамі (*з бояры* замест *боярами; совѣтова, не сотворихъ* замест *советовался, сотворили*).

Каб выявіць, наколькі старабеларуская літаратурная мова адрознівалася ад царкоўнаславянскай, возьмем урывак з Евангелля, выдадзенага В. Цяпінскім у канцы 16 ст. паралельна па-царкоўнаславянску і па-беларуску. Царкоўнаславянскі тэкст: *Се волъсви от восток приидоша во Иерслим, гълаголюще: «Гдѣ ест рождейся црь июдѣиский? Видѣхомь бо звезду его на въстоцѣ и приидохомъ поклонитися ему».* Пераклад: *Ото мудрецы зо всходу пришли до Ерусолима, мовечи: «Где ест нарожeный король юдский? Виделисмо бо звезду его на всходе и пришлисмо поклонитися ему».*

У перакладзе адсутнічаюць не толькі тыповыя царкоўнаславянізмы, але і іншыя архаічныя з'явы кніжнага паходжання. Перакладчык біблейскае слова *црь* (цар) замяняе словам *король, волъсви* замяняецца на *мудрецы*, прыметнік *июдѣиский* у перакладзе набывае форму *юдский*, дзеяслоўная форма *гълаголюще — мовечи* і г. д. У выніку царкоўнаславянскі біблейскі тэкст пачынае гучаць як звычайнае бытавое апавяданне на тагачаснай беларускай мове.

Старабеларуская літаратурная мова, такім чынам, з'явілася першым этапам у стварэнні самабытнай беларускай літаратурнай мовы на паслядоўна народнай аснове.

*Літ.:* Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3. Вып. 2. Пг., 1922; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984. *Л. М. Шакун.*

## СТАРАСЛАВЯНСКАЯ МОВА

Старраславянская мова — самая ранняя літаратурная мова старажытных славян. Яе ўзнікненне звязана з дзейнасцю славянскіх першаасветнікаў братоў Канстанціна (у манастве — Кірыла; 826—869) і Мяфодзія (815—885), якія ў 2-й палавіне 9 ст. па просьбе мараўскага князя Расціслава пераклалі з грэчаскай мовы для патрэб набажэнства рэлігійныя кананічныя і богаслужэбныя кнігі. У аснову стараславянскай мовы быў пакладзены салунска-македонскі дыялект старабалгарскай мовы. Але параўнальна рана яна стала наддыялектным утварэннем і набыла агульнаславянскае значэнне як літаратурная мова паўднёвых і ўсходніх славян, а ў пачатку сваёй гісторыі выкарыстоўвалася і ў заходніх славян Вялікамараўскай дзяржавы.

Раннія пераклады кніг Свяшчэннага пісання і іншых богаслужэбных твораў Кірылам і Мяфодзіем, а таксама працы іх вучняў і паслядоўнікаў не захаваліся. Яны вядомы толькі ў больш позніх спісах, самыя раннія з якіх адносяцца да канца 10 — пачатку 11 ст. Усяго ў наш час вядома каля 20 неаднолькавых па памеры стараславянскіх помнікаў. Усе яны напісаны на пергаменце. Частка іх запісана глаголіцай, якая, як цяпер лічаць даследчыкі, з'яўляецца самай ранняй славянскай азбукай. Яе стваральнікам лічыцца славянскі першаасветнік Канстанцін-Кірыл. Большасць глагалічных помнікаў паходзіць з Балгарыі. Гэтай азбукай запісаны Кіеўскія лісткі, Зографскае, Асеманіева і Марыінскае евангеллі, Клоцаў зборнік, Сінайскі псалтыр, Сінайскі трэбнік і інш. Да кірыліцкіх помнікаў (гл. **Кірыліца**) адносяцца Дабружанскі надпіс 943 г., надпіс цара Самуіла 993 г., Савіна кніга, Супрасльскі рукапіс, Лісткі Ундольскага, Слуцкія лісткі, Астрамірава евангелле, Тураўскае евангелле і інш. Помнікі стараславянскай мовы распаўсюджаны былі і ў старажытнай Беларусі, пра што сведчаць пазнейшыя іх знаходкі. У 1823 г. ў Супрасльскім манастыры прафесар Віленскага універсітэта

М. Баброўскі знайшоў вельмі каштоўны Супрасльскі рукапіс — самы вялікі па памеры старaславянскі помнік балгарскага паходжання. Ён змяшчае жыціі, пропаведзі і легенды (пазней помнік аказаўся падзеленым на 3 часткі, якія апынуліся ў розных краінах). У 1865 г. М. Сакаловым у Тураве знойдзена 10 лісткоў евангелля 11 ст. Цяпер яно вядома пад назвай «Тураўскае евангелле» і захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы ў Вільнюсе. У 1867 г. Д. Струкаў знайшоў у Слуцку 5 лісткоў старaславянскага псалтыра, за імі замацавалася назва «Слуцкія лісткі». Пазней тыя лісткі згубіліся, сучасным даследчыкам помнік вядомы па выданні І. І. Сразнеўскага 1868 г. Гэтыя знаходкі з'яўляюцца переканаўчым сведчаннем таго, што старaславянскія кнігі вядомы былі адукаваным чытачам старажытнай Беларусі. Усе старaславянскія помнікі выдадзены ў 19—20 ст. з дакладнай перадачай іх графічных і арфаграфічных асаблівасцей, у апошні час пачалі з'яўляцца і факсімільныя іх выданні.

Па сваёй структуры старaславянская мова адлюстроўвае асноўныя моўныя рысы, уласцівыя паўднёвай групе тагачасных славянскіх моў. Важнейшымі фанетычнымі рысамі старaславянскай мовы з'яўляюцца няпоўнагалоссе *(брада, глава, градъ, брѣгъ, млѣко)*, насавыя галосныя гукі *ǫ* і *ę*, якія ў кірыліцкім пісьме абазначаліся літарамі ѫ «юс вялікі» і ѧ «юс малы» *(дѫбъ, пѫть, рѫка, зѧть, пѧть)*, рэдукаваныя галосныя ъ і ь, *жд* і *шт* на месцы праславянскіх *dj, tj* *(межда, одежда, ноштъ, свешта)*, пачатковае ѥ *(ѥдинъ, ѥзеро, ѥсень)* і інш.

Назоўнікі старaславянскай мовы размяркоўваліся па 6 тыпах скланення, іх класіфікацыя вызначалася характарам гукаў асновы. Іменныя часціны мовы змяняліся па 6 склонах і 3 ліках. Сістэма займеннікаў вылучалася ўжываннем скарочаных (энклітычных) форм тыпу *ми, ти, си, мѧ, тѧ, сѧ.* Прыметнікі змяніліся па кароткім (іменным) і поўным (займенным) скланенні. На ранняй стадыі старaславянскай мовы шырока выкарыстоўваліся прыметнікавыя формы з нясцягненымі канчаткамі тыпу *нова ѥго, новоуѥ моу, новыимъ, новыихъ* і г. д.

У старaславянскай мове асабліва разгорнутай была сістэма дзеяслова, дзе адрозніваліся перш за ўсё асабовыя і неасабовыя формы. Асабовыя формы рэалізаваліся ў катэгорыях асобы, ліку, часу, ладу і стану. Сістэма часу аб'ядноўвала цяперашні час, будучы просты і будучы складаны, які меў некалькі разнавіднасцей, і 4 часы для выражэння розных адценняў мінулых дзеянняў: 2 простыя — аорыст і імперфект і 2 складаныя — перфект і плюсквамперфект. Да неасабовых форм адносіліся інфінітыў, супін і дзеепрыметнік. У дзеепрыметніку адрозніваліся формы незалежнага і залежнага стану цяперашняга і прошлага часу. Некаторыя формы дзеепрыметнікаў незалежнага стану ўжо ў старaславянскай мове ў пэўных сінтаксічных умовах ператварыліся ў дзеепрыслоўі.

Асновай слоўнікавага складу старaславянскай мовы з'яўляецца агульнаславянская лексіка ў паўднёваславянскім фанетыка-марфалагічным абліччы. Слоўнікавы склад папаўняўся новаўтварэннямі, запазычаннямі і шматлікімі кніжнымі калькамі з грэчаскай мовы. Многія агульнаславянскія словы, зафіксаваныя ў старaславянскіх помніках як агульнаславянская спадчына, яшчэ і цяпер захоўваюцца ў беларускай мове ў тым або блізкім значэнні, напрыклад, назоўнікі *абрус, алей, воблака, вока, воцат, вячэра, гадзіна, гаспадар, гной, дрэва, кола, конь, маці, мыта, нядзеля, туга* і інш.

Пашыраючыся ў розных славянскіх землях, старaславянская мова напаўнялася мясцовымі моўнымі рысамі, і гэта мела вынікам узнікненне некалькіх мясцовых рэдакцый (або зводаў) старaславянскай мовы: мараўска-чэшскай, старабалгарскай, сербскай, славенскай, або панонскай, і старажытнарускай (гл. **Царкоўнаславянская мова**). Важнейшым помнікам старажытнарускай рэдакцыі з'яўляецца славутае Астрамірава евангелле, перапісанае са старабалгарскага арыгінала ў 1056—57 гг. дыяканам Грыгорыем для наўгародскага пасадніка Астраміра. Цяпер гэта евангелле захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу. У 19 ст. з'явіліся 3 выданні помніка, 4-е факсімільнае ажыццёўлена Маскоўскім патрыярхатам у 1988 г. ў азнаменаванне 1000-годдзя хрышчэння Русі. У другой палавіне 11 ст. ў старажытнай Русі з'явілася многа іншых помнікаў на старaславянскай мове пераважна балгарскага паходжання. Цяпер яны ў большасці захоўваюцца ў бібліятэках і музеях Масквы і Санкт-Пецярбурга. Важнейшымі з іх з'яўляюцца: Зборнікі Святаслава 1073 і 1076 гг., Архангельскае евангелле 1092 г., Мінеі службовыя 1095—97 гг., Чудаўскі і Яўгеніеўскі псалтыры 11 ст., «Словы» Кірыла Іерусалімскага, 13 «Слоў» Грыгорыя Багаслова і інш. У аснове гэтых помнікаў — старaславянская мова, але ў іх у пэўнай ступені адлюстраваны і асаблівасці жывой старажытнарускай мовы. Насычэнне старaславянскіх тэкстаў мясцовымі моўнымі рысамі прывяло да пераўтварэння старaславянскай мовы ў царкоўнаславянскую.

*Літ.:* Селищев А. М. Старославянский язык. Ч. 1—2. М., 1951—52; Вайан А. Руководство по старославянскому языку. М., 1952; Никифоров С. Д. Старославянский язык. 2 изд. М., 1955; Ван-Вейк Н. История старославянского языка. М., 1957; Горшков А. И. Старославянский язык. 2 изд. М., 1974; Хабургаев А. Старославянский язык. 2 изд. М., 1986; Супрун А. Е. Старославянский язык. Мн., 1991. *А. І. Жураўскі.*

## СТАТУТЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Статуты Вялікага княства Літоўскага — зводы законаў феадальнага права эпохі Вялікага княства Літоўскага. Вядомы 3 рэдакцыі Статутаў — 1529, 1566 і 1588 гг. У іх атрымалі юрыдычнае замацаванне асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу, прававое становішча класаў, саслоўяў і сацыяльных груп насельніцтва, парадак утварэння, састаў і паўнамоцтвы асноўных органаў дзяржаўнага кіравання і суда. Статут 1529 г., як мяркуюць даследчыкі, быў падрыхтаваны пад кіраўніцтвам канцлера Вялікага княства Літоўскага Альбрэхта Гаштольда. У аснову яго пакладзены земскі прывілей 1447 г. з дапаўненнем палажэнняў пазнейшых прывілеяў вялікіх князёў Аляксандра і Жыгімонта Старога. Ён быў зацверджаны на Віленскім сейме 29 верасня 1529 г. У наш час вядомы 4 спісы на беларускай мове — Фірлейскі, Замойскі, Дзялынскі і Слуцкі, з іх першыя 2 па часе напісання блізкія да арыгінала, астатнія адносяцца да другой паловы 16 ст. Вядомы таксама спісы гэтага Статута на лацінскай і польскай мовах. Статут



Статут 1588 г. Тытульны ліст.

А писаръ земъски маеть по рускѹ литерами и словы рускими вси листы выписы и позвы писати а не иншимъ езыкомъ и словы

**Артыкул Літоўскага Статута 1588 г., які замацоўваў статус беларускай мовы як дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім.**

1566 г. быў зацверджаны прывілеем вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ў сакавіку 1566 г. У аснову яго пакладзены Статут 1529 г., дапоўнены новымі палажэннямі, якія адлюстроўваюць змены ў грамадска-палітычным жыцці Вялікага княства Літоўскага сярэдзіны 16 ст. Захавалася каля трох дзесяткаў рукапісных экземпляраў гэтага Статута. Статут 1588 г. адлюстроўвае вышэйшую ступень развіцця заканадаўства Вялікага княства Літоўскага. Ён замацаваў адносіны, што склаліся паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай пасля Люблінскай уніі 1569 г. Рэдактарам гэтага Статута быў падканцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега. Статут быў надрукаваны ў Вільні ў 1588 г. друкарняй братоў Мамонічаў (пазней з нязначнымі арфаграфічнымі зменамі перадрукоўваўся ў 1593 і 1600 гг.). Для Статута быў выкарыстаны спецыяльны курсіўны шрыфт, які вельмі ўдала імітаваў тагачасны скорапіс, што выкарыстоўваўся ў дзелавым пісьменстве. У 1614 г. Статут быў выдадзены на польскай мове, пазней з'явілася яшчэ некалькі польскіх выданняў. У 17 ст. быў зроблены пераклад Статута на рускую мову, у 1811 г. з'явілася друкаванае выданне Статута на рускай мове. Статут выкарыстоўваўся ў судаводстве на Беларусі да 1840 г. (у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ.).

Роля Статута ў гісторыі беларускай мовы надзвычай вялікая. Ён замацоўваў лепшыя моўныя здабыткі канцылярска-юрыдычнага пісьменства (гл. **Канцылярска-юрыдычнае пісьменства 15—17 ст.**) свайго часу, быў узорам мовы для шматлікіх пісараў, якія афармлялі дэкрэты сеймаў і Галоўнага Літоўскага трыбунала, акты гродскіх, земскіх, падкаморскіх і копных судоў, акты і прыходна-расходныя кнігі гарадскіх управ, магістратаў і магдэбургій, перапісы войска, рэестры, фундушы і інвентары замкаў, маёнткаў, фальваркаў і старостваў, запаветы, дыпламатычныя дакументы і г. д. Арфаграфія ўсіх 3 Статутаў характарызуецца дзвюма асноўнымі тэндэнцыямі, якімі канцылярска-юрыдычнае пісьменства адрозніваецца ад іншых жанраў старажытнай літаратуры,— гэта уніфікацыя графікі і фанетызацыя правапісу. Графічная сістэма Статутаў максімальна спрошчана: тут мала такіх дублетных літар, якія паслядоўна ўжываліся ў рэлігійнай літаратуры таго часу. У большасці рукапісных спісаў Статутаў 1529 і 1566 гг. і ў друкаваным Статуце 1588 г. рэдка ўжываецца літара ѣ, на месцы яе як у каранях слоў, так і ў граматычных формах пішацца ў большасці *е*: *вера, гнездо, в дворе, на войне* і інш. У Статутах практычна не ўжываецца літара *ї*, парушылася ранейшая заканамернасць выкарыстання літар Ѧ і Ю, адсутнічае дыграф *оу*.

Ва ўсіх спісах Статутаў назіраецца адступленне ад традыцыйных правапісных прыёмаў і збліжэнне з жывымі маўленчымі нормамі беларускай мовы. Уласцівая беларускай мове змена гука [у] на *ў* нескладовае ў пэўных пазіцыях абазначаецца літарай *в*: *вживати, вписати, втекати, вчинити* і г. д. Шырока адлюстроўваецца ў Статутах такая характэрная рыса беларускай фанетыкі, як зацвярдзенне шыпячых і *р*: *кончыти, учынити, мочы, врадъ, крывда*. Гэта з'ява асабліва шырока адлюстравана ў дзеепрыслоўях цяперашняга і прошлага часу: *будучы, ждучы, давшы, мевшы, почавшы*. Варыянтнай нормай з'яўляецца таксама перадача асобага вымаўлення ў ненаціскным становішчы пасля мяккіх зычных гука [а], які раней абазначаўся літарай Ѧ («юс малы»), а пазней — літарай *е*: *везенье, деветь, паметь, тежарь, челедь, тегнути*. Гэта рыса асабліва часта праяўляецца ў напісанні дзеепрыслоўяў цяперашняга часу: *просечы, робечы, седечы, хотечы, чынечы*. Такую арфаграфічную з'яву даследчыкі тлумачаць як ускоснае адлюстраванне якання.

Статуты вылучаюцца таксама і тым, што тут фактычна ўпершыню стала выкарыстоўвацца літара *э* для абазначэння цвёрдасці папярэдняга зычнага. Некалькі выпадкаў такога ўжывання адзначаецца ўжо ў Дзялынскім спісе Статута 1529 года. Але асабліва шырока гэта з'ява праведзена ў некаторых спісах Статута 1566 г., дзе трапляюцца напісанні *дрэво, срэбро, потрэба, рээстръ, рэчъ* і інш. У Статуце 1588 г. таксама трапляюцца напісанні *секрэтаръ, тэжъ, тэстаментъ*. Але тут больш часта выкарыстоўваецца спецыяльная літара Є, якой падкрэсліваецца асаблівасць вымаўлення іншамоўных слоў: *апелѧцыѧ, декретъ, секвестръ, тежъ, тестаментъ*. У гэтым Статуце выбухны гук [г] іншамоўных слоў перадаецца дыграфам [кг], што трапляецца і ў іншых помніках старабеларускага пісьменства: *инстыкговати, кгвалтъ, цекгла*.

Граматычны лад Статутаў характарызуецца адносна высокай ступенню ўстойлівасці і ўнармаванасці, што было наогул дасягнута ўсім дзелавым пісьменствам таго часу. Сістэма скланення назоўнікаў Статутаў вельмі блізкая да сучаснай. Назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне вельмі шырока ўжываюцца з канчаткам *-у/-ю*: *врѧду, двору, зверу, огню, трыбуналу*. Назоўнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне множнага ліку побач з традыцыйным канчаткам *-ы/-и* часта ўжываюцца з новым канчаткам *-ове/-еве*: *воеводове, войтове, вуеве, послове, тивунове*. Назоўнікі жаночага і ніякага роду ў родным склоне множнага ліку ўжываюцца выключна ў форме чыстай асновы (з устаўкай у некаторых формах беглага галоснага): *горлъ, землъ, кривдъ, местцъ, сестръ*. Назоўнікі жаночага роду былых асноў на *і* (сучаснае III скланенне) у родным склоне множнага ліку заўсёды маюць канчатак *-ей*: *бортей, волостей, костей, речей*.

Сістэма дзеяслоўных форм Статутаў характарызуецца ўсімі тымі асаблівасцямі, якія былі ўласцівы беларускаму дзелавому пісьменству 16 ст. У Статутах асабліва часта ўжываюцца інфінітывы, якімі ў катэгарычнай форме прадпісваецца абавязковасць выканання таго ці іншага дзеяння. У тэкстах у колькасных адносінах пераважаюць традыцыйныя формы інфінітываў на *-ти* тыпу *быти, держати, знати, карати*. Але ўжо ў спісах Статута 1529 г. трапляюцца і новыя інфінітывы на *-ть* тыпу *дать, зранить, становить, шиховать*. У Статутах 1566 і 1588 гг. такія ўтварэнні маюць значэнне варыянтнай нормы. Формы 1-й асобы множнага ліку ва ўсіх Статутах ужываюцца толькі з канчаткам *-мъ*: *видимъ, кажемъ, маемъ, можемъ, обецуемъ*.

Багаццем лексічнага матэрыялу са Статутамі не можа параўнацца ніводзін іншы помнік старабеларускага пісьменства. Спецыфіка іх лексікі вызначаецца тым, што тут закранаюцца самыя разнастайныя бакі грамадскага, гаспадарчага і асабістага жыцця ўсіх сацыяльных слаёў тагачаснага грамадства. У сувязі з гэтым у Статутах адлюстраваны ўсе важнейшыя лексіка-тэматычныя разрады старабеларускай лексікі, пачынаючы ад найменняў дзяржаўных і службовых асоб розных рангаў і канчаючы падрабязным пералікам сельскагаспадарчых культур, прылад працы, прадметаў хатняга ўжытку, свойскіх і дзікіх жывёл і птушак. У гэтых адносінах асабліва вылучаецца Статут 1588 г.— самы вялікі кодэкс. У розных месцах помніка ўжываюцца назвы розных асоб, якія мелі дачыненне да судовых працэсаў або іншых бакоў грамадска-

га жыцця: *арендаръ, бискупъ, вижъ, гетманъ, данникъ, елейтъ, жалобникъ, заступца, инстикгаторъ, канонникъ, комисаръ, мытникъ, наместникъ, опекунъ, подворникъ, ревизоръ, светокъ, тивунъ, участникъ, хлопъ, челядникъ, шкрутаторъ* і інш.

У асобных артыкулах вызначаюцца цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю, у сувязі з гэтым пералічваюцца такія культуры, як *бобъ, горохъ, ечменъ, жито, капуста, ленъ, макъ, овесъ, пастернакъ, репа, сочивица, чоснокъ* і інш. Пры вызначэнні цэн на гаспадарчыя прадметы і прылады працы пералічваюцца *гебель, дуга, коса, лейца, пила, спустъ, хомутъ* і інш. і складаныя назвы *вожы конопные, дровни простые, сани мужыцкие, топоръ великий скглютъ, топоръ беднарский* і інш. Пры пераліку свойскай жывёлы не толькі адзначаюцца агульныя родавыя назвы, але прыводзяцца і відавыя азначэнні ў залежнасці ад узросту і іншых прыкмет і якасцей: *баранъ, волъ, кнорозъ, козенѧ, подсвинокъ, коза, конь, корова, овца, свинья, югне, юловіца*. Такая паўната назваў характэрна і для іншых прадметна-тэматычных і паняційных разрадаў старабеларускай лексікі. Дзякуючы гэтаму Статуты маюць першаступеннае значэнне для вывучэння гісторыі беларускай мовы, асабліва яе лексікі.

Значэнне Статутаў у гісторыі беларускай мовы яшчэ і ў тым, што яны юрыдычна замацоўвалі прававое становішча беларускай мовы як дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім. У сярэдзіне 16 ст. ў сувязі з умацаваннем палітычных і культурных сувязей з Польшчай у справаводства Вялікага княства Літоўскага пачала пранікаць польская мова. Але гэта тэндэнцыя была прыпынена Статутам 1566 г., куды быў унесены спецыяльны закон аб абавязковым ужыванні ў справаводстве беларускай (па тагачаснай тэрміналогіі — рускай) мовы: *А писа^р^ земский по руску маеть литэрами и словы рускими все листы и позвы писати, а не инъшы^м^ юзыко^м^ и словы* (раздзел 4, артыкул 1). Гэты пункт быў захаваны і ў друкаваным Статуце 1588 г. Такое патрабаванне Статутаў садзейнічала таму, што беларуская мова яшчэ доўгі час працягвала выкарыстоўвацца ў справаводстве, пакуль не была выцеснена з гэтай сферы польскай мовай у другой палавіне 17 ст.

*Публ.:* Статут Великого княжества Литовского 1529 года. Мн., 1960; Первый Литовский Статут. Т. 1, ч. 2. Вильнюс, 1985 (Факсімім Дзялынскага спіса); Статут Великого княжества Литовского 1566 года // Временник императорского Московского общества истории и древностей российских. М., 1855. Кн. 23; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мн., 1989.

*Літ.:* Лаппо И. И. Литовский статут 1588. Т. 1. Каунас, 1934; Лазутка С. А. Литовский Статут — феодальный кодекс Великого княжества Литовского. Вильнюс, 1974; Первый Литовский статут. Т. 1, ч. 1. Вильнюс, 1983; Альт Т. Ф. Мова Літоўскага статута 1529 г. // Бел. лінгвістыка. Мн., 1978. Вып. 14; Bieder G. Das Litauische Statut von 1529: (Bemerkungen zur historischen Orthographie und Phonetik der altweißrussischen Rechtsprache) // Wiener slavistisches Jahrbuch. 1973. Bd. 18; Жураўскі А. І. Мова Статута // Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Мн., 1989.

*А. І. Жураўскі.*

## СТРУКТУРНАЕ ЧЛЯНЕННЕ СКАЗА

Структурнае чляненне сказа — граматычны падзел сказа на кампаненты, якія па традыцыі лічацца членамі сказа. Паводле будовы і функцыі ў сказе вылучаюцца галоўныя і даданыя члены сказа. Галоўныя члены ўдзельнічаюць у стварэнні прэдыкатыўнай асновы сказа, з'яўляюцца неабходнымі кампанентамі яго структурнай схемы: яны служаць ядром, якое арганізуе структуру сказа і выражае яго асноўны сэнс. Да іх адносяцца дзейнік і выказнік двухсастаўнага сказа і суадносны з імі галоўны член аднасастаўнага сказа. Дзейнік абазначае прадмет, які з'яўляецца носьбітам прэдыкатыўнай адзнакі, выражанай выказнікам. Такім носьбітам можа быць асоба чалавека: ***Васіль** вярнуўся дамоў позна* (І. Мележ); жывая істота: *На лузе пасуцца **коні*** (К. Чорны); неадушаўлёны прадмет: *Плыве **човен** па рацэ* (Я. Купала); з'ява прыроды: *Першыя **замаразкі** ўбіралі інеем астуджаную зямлю* (М. Лынькоў); адцягненае паняцце: ***Радасць** свеціцца ў вачах* (Я. Колас); апрадмечанае дзеянне: *Вялася ранняя **сяўба*** (М. Гарэцкі). Дзейнік выражаецца назоўнікам ці адпаведным яму займеннікам, а таксама іншымі часцінамі мовы, якія ў кантэксце набываюць прадметнае значэнне (субстантывуюцца): *Шчасліваю доляй **жыццё** расцвіло* (М. Машара); ***Я** выходжу рана-рана слухаць лесу галасы* (П. Пранузa); *На ўзлеску стаяць **вартавыя** і ўважліва агледаюць наваколле* (М. Лынькоў); *На месца аднаго становяцца **пяць*** (Я. Купала). Дзейнік бывае просты: *Ціха шумелі **сосны*** (П. Пестрак), састаўны: ***Лічыцца першым** — вялікі гонар* («Звязда») і складаны: *Над ракой праляцела **сем качак*** (М. Зарэцкі). У пазіцыі дзейніка іншы раз ужываецца цэлы сказ: *Гучнае **«Добры дзень, таварышы!»** пачулася ля ўваходу ў майстэрню* (Х. Шынклер). Дзейнік звычайна афармляе дадзенае ў паведамленні (тэму), найчасцей займае ў сказе пазіцыю перад выказнікам.

Выказнік выражае прэдыкатыўную адзнаку прадмета, абазначанага дзейнікам. Такой адзнакай можа быць дзеянне, якое ўтварае або ўспрымае прадмет: *Маці **капала** бульбу* (П. Галавач); *Вясковая вуліца **запоўнілася** людзьмі* (І. Мележ); існаванне прадмета ці стан, у якім ён знаходзіцца: ***Была** раніца* (М. Лынькоў); *Рэчкі дробныя струмені чыстым срэбрам **ззяюць** скрозь* (А. Астрэйка); прымета (якасць, уласцівасць, прыналежнасць, колькасць), якой валодае прадмет: *Надвор'е **было спякотнае*** (І. Шамякін); ***Не навіна** машына ля двара* (П. Броўка); *Бульба ў нас **свая*** (Я. Колас); *Наша хата **дзесятая** ад канца сяла* (А. Якімовіч). Выказнік выражаецца дзеясловамі і рознымі недзеяслоўнымі формамі (назоўнікамі, прыметнікамі, займеннікамі і інш.): *За ракой **туманяцца** лугі* (А. Русак); *Зорка Венера **ўзышла** над зямлёю* (М. Багдановіч); *Воля сонейку **раўня*** (Я. Купала); *Добрая кватэра **не абы-што*** (У. Краўчанка). Выказнік бывае просты: ***Расшумеўся** цёмны бор* (М. Калачынскі); састаўны: *Я **рад паслухаць** лесу шум* (З. Бядуля) і складаны: *Дзень **меўся быць найлепшы*** (Я. Скрыган). Выказнік змяшчае мадальна-часавую характарыстыку носьбіта прэдыкатыўнай адзнакі, афармляе новае ў паведамленні (рэму), найчасцей займае ў сказе пазіцыю пасля дзейніка.

Дзейнік і выказнік сінтаксічна раўнапраўныя, узаемазалежныя, прадвызначаюць адзін аднаго і сумесна ўтвараюць структурную аснову (прэдыкатыўнае ядро) сказа. Паміж імі ў сказе існуе прэдыкатыўная сувязь; яе разнавіднасцямі з'яўляюцца каардынацыя, пры якой дзейнік так вызначае форму выказніка, як і выказнік форму дзейніка: *Шчабяталі ластаўкі* (К. Чорны); *Высока ў сінім бязвоблачным небе плыве яркае сонца* (І. Навуменка); суразмяшчэнне, пры якім дзейнік і выказнік не прыпадабняюцца: сувязь паміж імі фармальна не выражана, а рэалізуецца шляхам лагічнай паслядоўнасці суразмяшчэння словаформ — паняцце прадмета папярэднічае паняццю адзнакі: *Летняе неба ў дымнай смузе* (В. Быкаў); *Травы — аж па грудзі* (А. Бялевіч); прыцягненне, пры якім прыпадабненне дзейніка і выказніка апасродкаванае і ў шэрагу выпадкаў няпоўнае, паколькі іменная частка састаўнога выказніка суадносіцца з дзейнікам праз пасрэдніцтва дзеяслова, які выступае ў ролі звязкі: *Бацька сядзеў сумны* (К. Чорны); *Бабуля выглядала памаладзелай* (Я. Маўр).

З дзейнікам або выказнікам двухсастаўнага сказа па форме супадае галоўны член аднасастаўнага сказа: *У лесе **стала хутка цямнець*** (І. Гурскі); ***Мінск. Прывакзальная плошча. Шмат народу*** (Б. Мікуліч). Аднак такі галоўны член істотна адрозніваецца ад дзейніка або выказніка па значэнні, бо адзін фарміруе прэдыкатыўнае ядро, складае структурную аснову

сказа: сцвярджаецца быццё прадмета ці абазначаецца незалежная ад прадмета адзнака, але не выражаюцца адносіны прадмета і адзнакі.

У кожным развітым сказе з галоўнымі членамі звязваюцца даданыя члены сказа. Д а д а н ы я члены прызначаны развіваць прэдыкатыўную аснову сказа. Яны звычайна не ўключаюцца ў структурную схему сказа, бо не з'яўляюцца яе кампанентамі, а служаць для ўдакладнення галоўных членаў, непасрэдна ці апасродкавана пашыраюць і ўзбагачаюць іх змест. Знаходзячыся ў падпарадкавальнай сувязі з галоўнымі членамі сказа, даданыя члены рэалізуюць і абагульняюць у сказе атрыбутыўныя, аб'ектныя і акалічнасныя адносіны. У залежнасці ад характару гэтых адносін яны традыцыйна дзеляцца на азначэнні, дапаўненні і акалічнасці. А з н а ч э н н е выражае прыкмету прадмета, які абазначаны азначаемым словам (назоўнікам ці іншай субстантываванай часцінай мовы). Такой прыкметай можа быць якасць прадмета: *Апускаюць ніц галовы ў росах* ***чыстых*** *васількі* (М. Хведаровіч); уласцівасць: *Дом* ***цагляны*** *выглядае з парку* (П. Броўка); прыналежнасць: *Бацькі бачылі* ***сынаву майклівасць і не маглі супакоіцца*** (Ц. Гартны); колькасць: *У вышыні замігцелі* ***першыя*** *зоры* (М. Лынькоў); дзеянне: *Кветкі заглядалі ў* ***расчыненыя*** *вокны хаты* (І. Шамякін). Паводле спосабу выражэння і характару сувязі з азначаемым словам вылучаюцца дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні. Дапасаваныя азначэнні прыпадабняюцца да азначаемага слова ў родзе, ліку і склоне; яны выражаюцца прыметнікамі, дзеепрыметнікамі і іншымі атрыбутыўнымі часцінамі мовы, маюць толькі простую будову: *Адшумела лета* ***роснымі*** *лугамі* (С. Грахоўскі); *Густа* ***ўсеянае*** *зоркамі неба яшчэ не святлела на ўсходзе* (У. Шахавец); *На поплаве пасвілася* ***нечае*** *цялё* (М. Чарот); *Настаў* ***другі*** *дзень жніва* (Т. Хадкевіч). Недапасаваныя азначэнні не прыпадабняюцца да азначаемага слова, а кіруюцца ім ці прымыкаюць да яго. Яны выражаюцца назоўнікамі або прыналежнымі займеннікамі ў форме ўскосных склонаў і іншымі часцінамі мовы, могуць быць простыя: *Нос* ***гарбінкай*** *надаваў суровы выгляд твару чалавека* (М. Лынькоў); ***Яе*** *песня далёка чуваць* (П. Глебка); састаўныя: *Жаданне* ***быць аграномам*** *здзейснілася* (Р. Сабаленка) і складаныя: *Адзінае акно* ***ў шэсць шыбінак*** *глядзела на вуліцу* (П. Пестрак). Да дапасаваных азначэнняў прымыкае п р ы д а т а к як асобая разнавіднасць. Прыдатак выражаецца назоўнікам, які прыпадабняецца да азначаемага слова ў форме склону: *Радзімы нашай* ***дзіва-птушкі*** *над плошчай вольнай паплылі* (М. Калачынскі). Многія прыдаткі прыпадабняюцца таксама ў форме роду і ліку: *У горадзе гаспадарыць* ***ударніца****-вясна* (Э. Самуйлёнак); *За акном вятры-****зладзеі*** *шляхі снягамі замятаюць* (А. Звонак). Тыя прыдаткі, якія з'яўляюцца назвамі кніг, устаноў, вёсак і г. д., супадаюць з азначаемым словам толькі ў форме назоўнага склону, параўнаем: *Спакойна нясе свае воды рака* ***Прыпяць*** (Я. Колас); *Лятуць журавы на гару* ***Арарат*** (П. Панчанка). Прыдаткі бываюць простыя: *Трактары шнуруюць над Арэсай-****рэчкай*** (Я. Купала) і складаныя: *Месяц —* ***жоўтая лодка*** *— плыве між воблакаў* (Г. Бураўкін). У адрозненне ад дапасаванага азначэння прыдатак абазначае прымету прадмета не непасрэдна, а праз адносіны да яго таго прадмета, які названы самім прыдаткам.

Д а п а ў н е н н е абазначае прадмет ці з'яву як аб'екты, у дачыненні да якіх ажыццяўляецца дзеянне або праяўляецца прымета. Дапаўненні выражаюцца рознымі часцінамі мовы з прадметным значэннем, паясняюць выказнік або іншыя члены ці прэдыкатыўную аснову сказа і кіруюцца або дэтэрмінуюцца імі. У залежнасці ад таго, з чым рэалізуецца іх сувязь, дапаўненні падзяляюцца на прыслоўныя (знаходзяцца пры асобным слове) і прыасноўныя (знаходзяцца пры структурнай аснове). Сярод прыслоўных дапаўненняў (недэтэрмінантаў) звычайна вылучаюць прыдзеяслоўныя, прыйменныя і прыадвербіяльныя. Прыдзеяслоўныя дапаўненні могуць быць прамыя, калі абазначаюць прадметы, якія поўнасцю ахопліваюцца дзеяннем і выражаюцца беспрыназоўнікавымі формамі вінавальнага, а таксама роднага склонаў (пры адмоўі і частковым ахопе прадмета дзеяннем): *Дзяўчаты палолі* ***лён*** (П. Броўка); *Кароткая ноч не прыносіць* ***спакою*** (М. Машара); *Я* ***пралесак*** *блакітных сягоння нарву* (П. Панчанка), і ўскосныя, калі абазначаюць прадметы, што выступаюць як аб'екты ўскосна накіраванага на іх дзеяння і выражаюцца рознымі формамі ўскосных склонаў: *За вокнамі вецер махае* ***крылом*** (М. Машара); *Спяваюць плытагоны* ***пра*** *далёкі* ***акіян*** (П. Глебка). Сярод прыйменных дапаўненняў вылучаюцца прысубстантыўныя (залежаць ад назоўнікаў): *Пачынаецца копка* ***бульбы*** (П. Пестрак); *Наладзілася перакліčка* ***з родным сялом*** (П. Трус) і прыад'ектыўныя (залежаць ад прыметнікаў і дзеепрыметнікаў): *Светлы ранак повен* ***ласкі*** (Я. Колас); *Лес спавіты* ***цішынёй*** (М. Клімковіч). Прыадвербіяльныя дапаўненні залежаць ад прыслоўяў і безасабова-прэдыкатыўных слоў: *Поплеч* ***з намі*** *сябры баявыя ідуць* (М. Чарот); *На калгасным двары* ***нікога*** *не відно* (У. Шахавец). Прыасноўныя дапаўненні (дэтэрмінанты) свабодна прымацоўваюцца да прэдыкатыўнай асновы сказа: ***У нас*** *суседзі здаўна харошыя* (А. Кулакоўскі); ***Міхасю*** *захацелася выкупацца ў рэчцы* (А. Асіпенка). Дапаўненні кожнай разнавіднасці могуць быць простыя і складаныя: *Расчасалі вішні шоўкавыя* ***косы*** (П. Трус); ***Яму*** *было нікавата ехаць аднаму* (В. Каваль); *Гаспадыня ветліва прапанавала* ***кожнаму з нас*** *адпачыць* (Б. Мікуліч); *У старой хаце было цесна* ***для дзевяці чалавек*** (М. Зарэцкі). Акрамя таго, прыдзеяслоўныя дапаўненні зрэдку маюць састаўную будову: *Старшыня прапанаваў Максіму* ***стаць за вартаўніка*** (П. Галавач).

А к а л і ч н а с ц ь абазначае характар дзеяння або прыкметы ці розныя абставіны, пры якіх адбываецца дзеянне, праяўляецца прыкмета, існуе з'ява ці падзея, пададзеныя ў сказе. Акалічнасці выражаюцца рознымі часцінамі мовы з сітуацыйным значэннем, паясняюць выказнік або іншыя члены ці прэдыкатыўную аснову сказа і прымыкаюць да іх або кіруюцца ці дэтэрмінуюцца імі, г. зн. могуць быць прыслоўныя (недэтэрмінанты) і прыасноўныя (дэтэрмінанты): *Разышліся* ***пад гарою*** *тры дарогі* ***ў полі*** (П. Трус); *Дзверы* ***ў хаце*** *былі расчынены насцеж* (К. Чорны); ***Ад яблык*** *гнуцца галіны* (І. Шамякін). Паводле значэння вылучаюцца акалічнасці месца, якія абазначаюць месца дзеяння або з'явы ці праяўлення прыкметы: *Людзі* ***некуды*** *спяшаліся* (Э. Самуйлёнак); ***За хвойнікам*** *стракатала жняярка* (І. Шамякін); акалічнасці часу, якія паказваюць час ажыццяўлення дзеяння або з'явы ці праяўлення прыкметы: *Дождж пайшоў* ***на змярканні*** (К. Чорны); *Любая нам праца* ***заўжды па плячу*** (А. Астрэйка); акалічнасці прычыны, якія называюць прычыну дзеяння або з'явы ці праяўлення прыкметы: *Лабановічу* ***чамусьці*** *не спалася* (Я. Колас); *У небе плылі ружовыя* ***ад сонца*** *круглыя воблачкі* (М. Гамолка); акалічнасці мэты, што акрэсліваюць мэту, дзеля якой адбываецца дзеянне або існуе з'ява: *Усе* ***мімаволі*** *насцеражыліся* (І. Мележ); *Сыноў бацька сваіх кліча* ***на нараду*** *ў хату* (Я. Купала); акалічнасці ўмовы, якія вызначаюць умову, пры якой адбываецца дзеянне або існуе з'ява: ***Пры жаданні можна шмат*** *чаго дабіцца* (У. Краўчанка); акалічнасці ўступкі, якія абазначаюць падставу, насуперак якой адбываецца дзеянне або існуе з'ява: ***Нягледзячы на позні час*** *спаць не хацелася* (М. Лынькоў); акалічнасці спосабу дзеяння, якія паказваюць спосаб ажыццяўлення дзеяння або характар існавання з'явы: ***Ціха*** *казку веснавую нам шапталі каласы* (А. Русак); *Насіліся* ***са свістам*** *стрыжы* (І. Грамовіч); акалічнасці меры і ступені, якія вызначаюць меру ці ступень праяўлення дзеяння або прыкметы: ***Значна*** *пасінеў абшар лесу* (З. Бядуля); *Смачныя* ***без меры*** *тут раслі калісьці бэры* (К. Крапіва), а таксама некаторыя іншыя акалічнасці. Усе разнавіднасці акалічнасцей могуць быць простыя і складаныя: ***З пушчы*** *верасень гнаў* ***на дарогу***

лісты (А. Куляшоў); ***Штосьці** на сэрцы млосна* (Я. Колас); *Я вішню **ў гонар сяброўства** саджу **каля хаты** сваё* (П. Панчанка); *Кожны **па меры** сваіх сіл павінен служыць Айчыне* (І. Навуменка).

Нярэдка адзін і той жа даданы член сказа сумяшчае ў сабе атрыбутыўнае і аб'ектнае або атрыбутыўнае і акалічнаснае ці аб'ектнае і акалічнаснае значэнні, а гэта значыць, што паміж даданымі членамі сказа — азначэннямі, дапаўненнямі і акалічнасцямі — не існуе выразнай мяжы. Параўнаем: *На століку ляжала лякарства ад прастуды* (С. Баранавых); *Я апусціўся на зямлю* (К. Чорны), дзе прыназоўнікавая словаформа *ад прастуды* дапускае пастаноўку пытанняў *ад чаго?* і *якое?*, а словаформа *на зямлю* — пытанняў *на што?* і *куды?*. Адсюль вынікае, што традыцыйная класіфікацыя даданых членаў крыху схематычная і не зусім дакладная, паколькі не ўлічвае пераходных з'яў паміж гэтымі членамі і той ролі, якую кожны з іх адыгрывае ў структурнай арганізацыі сказа. Цяпер актыўна вядуцца пошукі больш дакладнай класіфікацыі даданых членаў сказа. Пры гэтым улічваецца іх семантыка і спосаб выражэння, уваходжанне ці неўваходжанне ў словазлучэнне як яго залежнага кампанента, аднесенасць да другога члена (галоўнага ці даданага) або прэдыкатыўнай асновы сказа ў цэлым, роля ў фарміраванні сінтаксічнай, семантычнай і камунікатыўнай структуры развітага сказа.

*Літ.:* Граматыка беларускай мовы. Т. 2. Сінтаксіс. Мн., 1966; Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986. *Л. І. Бурак.*

## СТЫЛІЗАЦЫЯ

Стылізацыя — мэтанакіраванае ўзнаўленне ў мастацкіх творах моўных асаблівасцей стылю пэўнай эпохі, літаратурнага кірунку, сацыяльнага асяроддзя, індывідуальнай манеры пісьменніка, выбраных аўтарам у якасці аб'екта пераймання (імітацыі).

У беларускай літаратуры ўжываецца прыём стылізацыі, арыентаваны на фальклорныя жанры. Гэта мастацкае перайманне маналагічнай сказавай мовы апавядальніка — персанажа з народу: *Устрахнуў Максім кудрамі — годзе плакаць, годзе, // Цяжка-важка, сумнесенька ён заводзе: // «Мае дзетачкі, мае дробныя, // Вы наплачацесь, нагалосіцесь, // Бо не стане ў вас татачкі // Хто вас будзе гадаваці, адзяваці? // І ад цёмнай ночы ўкрываці? // Станеце вы, дзеткі, жабракамі, // Пойдзеце барамі-лугамі // Ды гасцінцамі-дарогамі, // А дарогі тыя без канца ляжаць,—// Без канца вам, дзеткі, гора горкае цярпець». // Ціха ўсё — толькі струны звіняць, // Толькі песня разліваецца. // Людзі добрыя навакол стаяць,— // З болю сэрца разрываецца* (М. Багдановіч. «Максім і Магдалена»). Сказавасць гэтага твора падкрэсліваецца сталымі эпітэтамі *(дробныя дзеткі, цёмная ноч, горкае гора, добрыя людзі)*, эмацыянальна-экспрэсіўнымі словамі *(сумнесенька, дзетачкі, татачка)*, лексічнымі паўторамі *(годзе плакаць, годзе; цяжка-важка; наплачацесь, нагалосіцесь; гадаваці, адзяваці, укрываці; барамі-лугамі, гасцінцамі-дарогамі)*, дыялектнымі формамі *(заводзе)*, паралельнымі сінтаксічнымі канструкцыямі з рытарычнымі пытаннямі і зваротамі.

Гістарычная стылізацыя дапамагае ўзнавіць пэўную эпоху, побыт, звычаі, асаблівасці мовы тагачасных людзей. Найважнейшы сродак гістарычнай стылізацыі — устарэлая лексіка і фразеалогія: *На захадзе сонца, у вечар нядзельны — а прыгожы такі, думны і цёплы,— прыйшлі мы да фартэцы Кодак, то бысць, не да самой, але за мілю ад яе сталі, у вілах між Самаракой і Дняпром. Князь Вішнявецкі, пан Ярэма Карыбут казаў пушкарам трыкроць з гармат стрэліць, залп губернатару кодацкаму пану Градзіцкаму даць, на што і той князю Яго Мосці такі ж прыём учыніў, трыкроць з гармат стрэліўшы. І то вельмі цуднае відовішча было — тыя агнявыя стрэлы, фартэца ў залатых праменнях нізкага сонца, воды Дняпра і Самаракі, і мы, люд збройны, на конях сваіх і без коней,— з дзідамі, шаблямі, лукамі, мушкетамі...* (Б. Сачанка. «Дыярыуш Мацея Белановіча»).

У гэтым урыўку шматлікія архаізмы — семантычныя *(вілы* 'развіліна дарогі', *вечар думны* 'прыемны'), уласна-лексічныя (*фартэца* 'крэпасць', *то бысць* 'гэта значыць', *трыкроць* 'тры разы', *пушкар* 'артылерыст', *Яго Мосць* 'ветлівы зварот', *дзіда* 'піка'), лексіка-фанетычныя *(цуднае відовішча)*, лексіка-словаўтваральныя *(агнявыя стрэлы)* і гістарызмы *(міля, пан, губернатар, князь, люд збройны, лукі, мушкеты)* выконваюць важную ролю гістарычнага «рэквізіту», пры дапамозе якога пісьменнік стварае свет мінулага, канкрэтныя вобразы персанажаў мастацкага твора.

Сацыяльная стылізацыя дае магчымасць перадаць псіхалогію, інтэлектуальны і маральны ўзровень дзейнай асобы. Так, жарганізмы і стылістычна зніжаныя словы ў маналогу Ваські па мянушцы Казёл з аповесці У. Арлова «І вярталіся мы...» — выразны сродак моўнай характарыстыкі злачынца, крымінальніка: *І чаго нас да музея несла, не разумею. Як усё роўна мёдам там памазана. Капеек нашкрэблі, атаварыліся і туды. Там, праўда, лавы клёвыя, шырокія, як паўтарачныя нары. У карцішкі скінуцца — любата. На грошы Біл не дазваляе, кажа, у кагао лішнія, прашу здаць. Затое на вушы ці на ваду гулялі. На вушы — у падкіднога, кожны сам за сябе. Лажануўся — цягні з калоды карту. Пашанцуе, як ніжніка цапанеш або кралю. А то туз вылезе, і адзінаццаць разоў адзінаццацю картамі — па вушах. Біл з трэцяга ўдару юху пускаў. А ў галаве гудзе, як колам перахрысцілі. Табе ўрэжуць, і ты потым, як звер.*

Прыём стылізацыі ляжыць і ў аснове літаратурных пародый, дзе адметныя рысы пэўнага твора падаюцца знарок гіпербалізавана, карыкатурна. Неадпаведнасць зместу і формы стварае камічны або сатырычны эфект: *Мне даволі салодкага болю, // Мне даволі блакітнай тугі; ... Бачу зноў качарэжнік знаёмы // І да болю знаёмы трапкач* (М. Янчанка. «Радасць сустрэч»). Такога ж камічнага эфекту дасягае, напрыклад, Г. Юрчанка, які шаржыруе нематываванае ўжыванне ў паэтычным творы памяншальна-ласкальных форм назоўнікаў: *З хатулькам за шырокаю спінкай, // З сукаватым кіёчкам-друччком // Да знаёмай ад веку хацінкі // Тэп-тэп-тэп я раблю пешачком. // Звонь гудзе, як напятыя струны, // Б'ецца сэрца гучней і гучней; // Мне насустрач выходзяць Матруна, // Янка, Хведар, Пятро і Карней. // Набачок я схіляю галоўку, // Паглядаю ў блакіт з-пад рукі. // Мой прыход услаўляюць салоўкі, // Верабейкі, шпачкі, жаўручкі. // Вось і ганак, што помніць растанне. // На дзвярах адкідаю кручок, // Каля печкі застылі ў чаканні // Таўкачок, гальнічок, трапкачок...*

*А. К. Юрэвіч.*

## СТЫЛІСТЫКА

Стылістыка (ад лац. stylos завостраная палачка для пісьма) — раздзел мовазнаўства, які даследуе ўжыванне слоў, словазлучэнняў, сказаў паводле іх адпаведнасці зместу, мэце выказвання, а таксама сітуацыі (у вусным маўленні).

У старажытнасці людзі пісалі на дошчачках, залітых воскам, вострым канцом палачкі выводзілі літары, тупым — выпраўлялі, загладжвалі напісанае. Тады ж узнік выраз «Saepe vertere stylum» 'часцей паварочвай стыль', г. зн. пішы і папраўляй. Стылістыка вучыць перадаваць думкі паслядоўна, дакладна, вобразна, пазбягаць штампаванай, неапраўдана расквечанай або псеўданавуковай мовы. Сродкам дасягнення гэтай мэты з'яўляюцца правілы ўжывання лексічных адзінак, марфалагічных форм і сінтаксічных канструкцый, распрацаваныя ў адпаведнасці з функцыянальным размежаваннем літаратурнай мовы ў розных сітуацыях моўнага кантактавання.

Адрозніваюць некалькі адгалінаванняў стылістыкі. Апісальная стылістыка вывучае патэнцыяльныя магчымасці выкарыстання стылістыч-

на афарбаваных сродкаў мовы на ўсіх узроўнях яе сістэмы: фанетычным *(фартух — хвартух)*, лексічным *(дзяркач — галень)*, фразеалагічным *(галаву зламжыць — даць дуба)*, словаўтваральным *(брат — браточак)*, марфалагічным *(ціхай ночы — ціхае ночы)*, сінтаксічным *(быў брыгадзірам — быў за брыгадзіра)*.

Функцыянальная стылістыка даследуе ўжыванне стылістычных рэсурсаў мовы ў залежнасці ад знешніх, экстралінгвістычных фактараў, якія вызначаюць умовы адбору моўных адзінак. Такімі фактарамі лічацца: форма зносін (вусная і пісьмовая, дыялагічная і маналагічная), сацыяльная сфера (бытавая, вытворчая, дзяржаўная), змест інфармацыі, мэта (паведамленне, просьба, загад) і ўмовы зносін (характар узаемаадносін субяседнікаў паводле ўзросту, сваяцкіх адносін і інш.).

Практычная стылістыка выпрацоўвае і рэалізуе стылістычныя нормы ўжывання моўных адзінак ва ўсіх функцыянальных стылях. Цэнтральнае месца ў практычнай стылістыцы займае праблема сінаніміі (гл. **Сінанімія**), бо стылістыка пачынаецца менавіта з неабходнасці выбару сродкаў выказвання, з усведамлення розніцы паміж нейтральнымі і стылістычна афарбаванымі адзінкамі мовы.

Стылістыка мастацкай літаратуры даследуе ўзаемадзеянне літаратурнай мовы і мовы мастацкай літаратуры ў іх гістарычным развіцці, вызначае заканамернасці арганізацыі моўных адзінак, якія павінны забяспечыць пэўны (рэалістычны, рамантычны і інш.) стылістычны кірунак твора. Стылістыка мастацкай літаратуры асэнсоўвае эстэтычную значнасць моўных адзінак у кантэксце мастацкага твора, ацэньвае ролю вобразных сродкаў і сродкаў вобразнасці. Гэта зблімжае стылістыку мастацкай літаратуры са стылістыкай літаратуразнаўчай, якая разглядае мову мастацкага твора як сродак стварэння вобразаў, сродак увасаблення аўтарскай задумы, што непасрэдна звязана са зместам і структурай твора.

Галоўнае паняцце стылістыкі — стыль. Моўны стыль — разнавіднасць мовы з пэўнымі асаблівасцямі фанетычных, лексічных, марфалагічных, сінтаксічных сродкаў, адбор якіх мае мэтавую накіраванасць і залежыць ад умоў камунікацыі. Пытанне пра колькасць стыляў сучасная навукай вырашаецца па-рознаму. Звычайна вылучаюць афіцыйна-дзелавы, навуковы, публіцыстычна-прамоўніцкі, гутарковы і мастацкі стылі. У некаторых навуковых працах афіцыйна-дзелавы стыль называецца справавым. [Гл. **Афіцыйна-дзелавы (афіцыйна-справавы) стыль, Гутарковы стыль, Мастацкі стыль, Навуковы стыль, Публіцыстычна-прамоўніцкі стыль.**]

Межы паміж стылямі адносныя, рухомыя, ім аднолькава ўласціва тэндэнцыя да раздзялення, дыферэнцыяцыі, з аднаго боку, і ўзаемапранікнення, інтэнсіўнай нейтралізацыі моўных сродкаў — з другога.

У фарміраванні функцыянальных стыляў прымаюць удзел усе сродкі мовы — фанетычныя, лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя.

Стылістычныя рэсурсы фанетыкі рэалізуюцца перш за ўсё ў гукавых паўторах, якія падкрэсліваюць вобразнасць паэтычнага або празаічнага радка. Прыгадаем, напрыклад, урывак з паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка»: *Гудам-звонам срэбрамедным // Звоняць звоны на званіцы. // Звоняць звоны ў час дзянніцы. // Надвячэр'ем ясна-бледным // Звоняць звоны галасныя.*

Фанетычныя асаблівасці дыялектнай мовы выкарыстоўваюцца для моўнай характарыстыкі персанажаў:

— *А з Мокуці багато ходзіць?*

— *З Мокуці таксамо,— прызнаўся Жалудок.*

— *А з Хвойнаго?*

— *І з Хвойнаго. Ім няма як дабрацца...* (І. Мележ. «Людзі на балоце»).

Да стылістычных рэсурсаў лексікі належаць сінонімы, эмацыянальна-экспрэсіўныя і метафарычныя лексічныя адзінкі, словы і выразы абмежаванага ўжывання. Сінонімы даюць магчымасць выбраць з шэрага суадносных стылістычна нейтральных і стылістычна афарбаваных лексічных адзінак тую, якая найбольш адпавядае кантэксту: *І тое ўсё, што некалі балела, // І што гняло варожай варажбой, // Падасца* ***смуткам — скрухай*** *перасцелай, // А ўвогуле — харошаю* ***журбой*** (М. Стральцоў).

У гэтых паэтычных радках семантычныя сінонімы *смутак, скруха, журба* дэталізуюць адценні агульнага значэння ('душэўная прыгнечанасць') і паказваюць розную ступень цяжкага душэўнага стану чалавека. Стылістычныя ж сінонімы могуць даваць найменню эмацыянальна-экспрэсіўную характарыстыку: *Ён —* ***завала****, ён —* ***нязгрэба****, ён радзіўся* ***гультаём*** (Я. Колас). Словы *завала, нязгрэба* з'яўляюцца прастамоўнымі — найбольш экспрэсіўнай разнавіднасцю размоўнай лексікі. Нейтральнае слова *гультай* добра адцяняе іх эмацыянальную афарбоўку. Семантыка-стылістычныя сінонімы ўдакладняюць значэнне слова і адначасова надаюць яму пэўную стылістычную афарбоўку: ***Абступіце*** *мяне, людзі,* ***атачыце****, ні на міг не выпускайце з свайго кола* (Н. Мацяш). Дзеяслоў *атачыце* пашырае семантыку папярэдняга дзеяслова (*атачыць* 'абступіць, утвараючы замкнёны круг') і набывае побач з нейтральным *абступіце* афарбоўку размоўна-бытавога слова.

Шырока выкарыстоўваюцца ў мастацкіх і публіцыстычных творах пра мінулыя часы архаізмы — устарэлыя словы, якія маюць сінонімы ў сучаснай мове. Яны ствараюць гістарычны каларыт пэўнай эпохі або надаюць выказванню адценне ўрачыстасці, узнёсласці ці іроніі: *Жыжаль надочы* ***борці*** [вуллі] *агледзеў — поўдзень пчалінаю песняй гудзе* (В. Зуёнак); *Ты глянь: пакуты, крыўда, крой. А на* ***скрыжалях*** [плітах з напісаным на іх свяшчэнным тэкстам] *новай эры старая пазалота слоў надзеі, любасці і веры* (У. Някляеў).

Да стылістычных сродкаў лексікі належаць словы і выразы, ужытыя з пераносным значэннем, якія ў кантэксце набываюць выразную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку і дапамагаюць стварыць мастацкі вобраз. Гэта — эпітэты (*І сталі рабіцца відушчымі людзі, і стаў кожны ў кожнага бачыць думкі —* ***пярэстыя, простыя, пакручастыя, белыя, шэрыя, чорныя, каляровыя,*** *і стаў кожны кожнага без слоў разумець* — А. Разанаў) і індывідуальна-аўтарскія метафары *(Ад ліўня пачарнелі стрэхі хат, за ўзлескам* ***гром знясілены сканаў*** — С. Законнікаў).

Словы і выразы абмежаванага ўжывання (дыялектныя ў мове людзей пэўнай мясцовасці, спецыяльныя ў пэўным прафесійным асяроддзі) звычайна выконваюць намінатыўную функцыю і не маюць стылістычнай афарбоўкі. Аднак у адпаведных кантэкстах, калі такая лексіка ўжываецца з мэтай замалёўкі мясцовага побыту, для стварэння этнаграфічнага каларыту, яна набывае эмацыянальную афарбоўку, а таксама служыць сродкам моўнай характарыстыкі персанажаў: *Маці разбудзіла* ***додніцай*** [на світанні]. *Яна больш нічога не сказала, адышлася з лыжкай да* ***судніка*** [шафы для посуду] *і забразгала пасудай* (І. Пташнікаў).

Жаргонныя і аргатычныя словы і выразы заўсёды экспрэсіўныя, маюць адценне грубасці. У мастацкіх творах яны ўжываюцца як стылістычны сродак для рэалістычнай замалёўкі людзей пэўных сацыяльных груп. Выкарыстанне жарганізмаў і аргатызмаў патрабуе ад пісьменніка майстэрства і тактоўнасці.

Стылістычныя магчымасці марфалагічных сродкаў мовы значна бяднейшыя за лексічныя, паколькі граматычныя формы маюць агульны характар і ўжываюцца ва ўсіх моўных стылях. Вылучаюцца сінанімічныя і функцыянальна-стылістычныя разнавіднасці гэтых сродкаў.

Стылістычную афарбоўку набываюць дыялектныя формы, сінанімічныя агульнанародным, а таксама формы гутарковыя, сінанімічныя нейтральным: *Яшчэ* ***гусцецьме*** *долі соль на скронях, яшчэ* ***душыцьме*** *тленнага вагар, але душу ад гібелі ўбароніць той цудны дар* (Н. Мацяш); ***Майстра*** *браў у рукі напільнік і, крыху ссутуліўшыся, станавіўся ляціскоў* (А. Асіпенка). Стылістычная спецыялізацыя марфалагічных сродкаў найбольш выразна выяўляецца ў сінанімічных

формах ацэнкі, якія маюць дадатковае значэнне памяншальнасці, ласкальнасці, зневажальнасці і г. д.: *Спі, мой* ***галубочак*** *сінявокі, зміргалі* ***зоранькі над*** *хатай* (А. Вялюгін); *Снег паблізу ўвесь растаў. У іншых месцах і зямля прасохла. А на вуліцы, па дарозе была вялікая* ***патапеча*** (М. Гарэцкі).

Стылістычная шматфункцыянальнасць марфалагічных сродкаў заключаецца ў тым, што адна і тая форма можа мець у розных кантэкстах розную стылістычную афарбоўку. Так, у афіцыйна-дзелавым і навуковым стылях шырока ўжываюцца суфіксальныя ўтварэнні кніжнага, тэрміналагічнага характару: *Пры* ***ажыццяўленні*** *сваіх правоў і свабод кожны чалавек павінен спазнаць толькі такія* ***абмежаванні,*** *якія ўстаноўлены законам выключна з мэтай* ***забеспячэння*** *належнага прызнання і павагі правоў і свабод іншых і* ***задавальнення*** *справядлівых* ***патрабаванняў*** *маралі, грамадскага парадку і агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадстве* (Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека). У паэтычнай мове аддзеяслоўныя назоўнікі з абстрактным значэннем набываюць адценне ўрачыстасці, узнёсласці. Напрыклад, у вершы Р. Барадуліна «Звеставанне»: ***Благавешчанне,*** *//* ***Звеставанне*** *— // Дзень прылёту буслоў. // Пeратомленых крыл* ***астыванне,*** *// З аблачынамі* ***ліставанне*** *// Без слоў.*

Назоўнікі звычайна — галоўны сродак перадачы статычных з'яў рэчаіснасці. *Усё спакойна і суцішліва, ані* ***дарог,*** *ані* ***трывог. Вясна. Буслы. Зара*** *над* ***вішнямі. І малако. І*** *свой* ***тварог.*** (П. Панчанка). У пэўных кантэкстах назоўнікі могуць ствараць зусім іншы эфект — няспыннага развіцця, змянення, руху: ***Шуканне, чаканне*** *і* ***хваляванне, зачараванне — расчараванне*** (П. Панчанка).

Прыметнікі ўжываюцца ва ўсіх стылях мовы, але функцыі іх розныя. У навуковым стылі яны выконваюць інфармацыйную ролю, у мастацкім і публіцыстычна-прамоўніцкім — маюць, акрамя пазнавальнай, і эстэтычную функцыю. Так, у вершы М. Танка «Птушкі» словы *сінія, чырвоныя, шэрыя, барвовыя* не толькі называюць прыкметы пэўных прадметаў і з'яў, але маюць і глыбокі падтэкст, звязаны з традыцыйным успрыманнем сіняга як чагосьці 'светлага', чырвонага — як 'сталага', шэрага — як 'сумнага', барвовага — як 'трывожнага, грознага'. Гэтыя прыметнікі дапамагаюць стварыць малюнак жыцця чалавека — яго маладосці, сталасці, старасці: *Вось лятуць над намі //* ***Сінія*** *птушкі ветру, //* ***Чырвоныя*** *птушкі лістоты, //* ***Шэрыя*** *птушкі хмар, //* ***Барвовыя*** *птушкі гадоў. // Выйдзі на ганак! // Кінь ім хоць жменю зярнят, // Каб яны так хутка // Не адляталі.*

Прозвішча чалавека, як правіла, выражаецца назоўнікам адзіночнага ліку; ужыты ў форме множнага ліку, ён абагульняе індывідуальныя рысы, уласцівыя менавіта гэтаму чалавеку, і пераносіць іх на пэўныя групы людзей. Такое стылістычнае выкарыстанне граматычнай формы робіць тэкст экспрэсіўным: *Няма патрэбы пераказваць змест шматлікіх чэхаўскіх навел. Прыпомніце іх, і перад вачыма ў вас у доўгай чарзе чэхаўскіх «герояў» —* ***лягавых, грызловых, укусі-каланчоўскіх,*** *настаўніка Ахінеева, памочніка паліцэйскага надзірацеля Ачумелава, гарадавога Жратвы, акцёра-палюбоўніка Паджарава, гімназіста Высекіна і шматлікіх* ***запупырыных, смердзяковых, падзатылкіных, чарнасвінскіх, галапёсавых*** *і* ***сямірылавых*** *на чале з унтэрам Прышыбеевым — пройдзе здань царскай Расіі* (П. Галавач).

Стылістычныя магчымасці дзеяслова праяўляюцца найбольш выразна ў формах часу і ладу. У афіцыйна-дзелавым і навуковым стылях ужываюцца звычайна такія часавыя формы, якія адлюстроўваюць рэальны час дзеяння. Гутарковаму, публіцыстычна-прамоўніцкаму і мастацкаму стылям уласцівы выкарыстанне дзеяслоўных форм аднаго часу са значэннем другога. Так, дзеясловы цяперашняга часу могуць ужывацца са значэннем прошлага, што дапамагае наблізіць мінулыя падзеі да чытача: *Мартын Рыль ехаў са стрэльбаю на чоўне ўскрай Прыпяці. Ён* ***туліцца*** *бліжэй да чаротаў, каб спрытней падкрасціся да дзікіх качак. Яму пашчаслівілася настраляць іх штук пяць. З таго боку Прыпяці* ***шыбуе*** *човен. На носе чоўна* ***ляжыць*** *зялёная вязка свежай травы і ёмкі сноп пышнага кучаравага чароту...* (Я. Колас). Дзеясловы будучага часу, ужытыя са значэннем цяперашняга, падкрэсліваюць шматкратнасць, паўтаральнасць дзеяння: *Вецер вые, не сціхае, дзіка ў коміне шуміць, то* ***заплача, заспявае,*** *то па стрэсе* ***прабяжыць*** (Я. Колас). Складаныя формы прошлага часу дзеясловаў, якія абазначаюць даўно мінулае дзеянне, уласцівыя толькі гутарковаму і мастацкаму стылям: *Хто* ***сустрэўся быў*** *са мною, дакрануўся раз ці два, дык той ведае ўжо, хто я: я — пякучка-крапіва* (К. Крапіва).

Дзеяслоўныя формы ладу набываюць экспрэсіўнасць, калі дзеясловы аднаго ладу ўжываюцца са значэннем другога: *Я* ***хацеў бы прасіць*** *вас, калега, пазнаёміць мяне з вашым грамадзянствам* (Я. Колас).

У межах стылістычных рэсурсаў с і н т а к с і с у вылучаюцца перш за ўсё сінтаксічныя сінонімы — розныя паводле структуры спалучэнні слоў і сказы, якія нясуць аднолькавую інфармацыю, але адрозніваюцца функцыянальна-стылістычнымі адценнямі. Так, напрыклад, у афіцыйна-дзелавым і навуковым стылях пераважаюць прыназоўнікавыя канструкцыі (найчасцей з галоўным словам — дзеясловам): *ідуць па беразе, рухаюцца па плошчы, у апошнія гады;* беспрыназоўнікавыя словазлучэнні выкарыстоўваюцца звычайна ў гутарковым, публіцыстычна-прамоўніцкім і мастацкім стылях: *ідуць лесам, бягуць полем, апошнім часам.*

Сваю стылёвую адметнасць маюць розныя віды сказаў. Двухсастаўныя, напрыклад, ужываюцца ва ўсіх стылях мовы. Аднасастаўныя больш уласцівыя гутарковай мове і мове мастацкіх твораў. Так, пэўна-асабовыя сказы звычайныя ў кантэкстах, дзе сэнс выказвання зразумелы без называння ўтваральніка дзеяння: *Робім да стомы. Цягнемся. Марым. // Век здаганяем. Героямі ходзім. // Ззяем, як сонца. Чарнеем, як хмары. // Нешта губляем. Амаль не знаходзім...* (П. Панчанка). Няпэўна-асабовыя сказы ўжываюцца тады, калі неабходна акцэнтаваць увагу на дзеянні, а не на яго ўтваральніку: *Перш за ўсё сталі перапраўляць раненых* (І. Мележ). Абагульнена-асабовыя сказы выкарыстоўваюцца для перадачы агульнавядомых сітуацый. Гэта тыповыя канструкцыі ў прыказках, казках, народных выслоўях: *Чужым розумам недалёка заедзеш.*

Своеасаблівым прыёмам экспрэсіўнага сінтаксісу з'яўляецца парцэляцыя. Гэта спосаб перадачы моўнага матэрыялу, пры якім змест выказвання рэалізуецца не ў адной, а ў двух і больш інтанацыйна-сэнсавых канструкцыях, размешчаных адна за адной з працяглымі паўзамі: *А па сцяжыне да здранцвелай хаты, // Праз дзікі зырк ламаных бліскавіц, // Бяжыць дзяўчо. З каханым. З вечарніц. // Як абяцанне сонечнага свята* (Н. Мацяш). Парцэляваныя выразы надаюць мове большую выразнасць, экспрэсіўнасць, дапамагаюць акцэнтаваць увагу на асобных дэталях, якія хоча вылучыць, падкрэсліць аўтар.

Як стылістычна-сінтаксічны сродак у мастацкай літаратуры і публіцыстыцы ўжываецца перыяд — шырока развіты просты ці часцей складаны сказ, які характарызуецца паўнатой і закончанасцю выказанай думкі, своеасаблівай структурай: *Ці то пракладае ён першую баразну ў яшчэ не прасохлай, а таму чорнай і ліпкай зямлі; ці то смела даручае такое кволае і такое нежывое яшчэ зерне ўгрэтаму ўжо і так паласкавеламу ад сонца полю; ці то любуецца, як дымна красуе, а потым пругка налівае зялёны колас,— заўсёды хлебасей бачыць перад сабою толькі вось такі даспелы прастор* (Я. Сіпакоў).

Для сінтаксічнай стылістыкі важнае значэнне мае звышфразавае адзінства, інакш — складанае сінтаксічнае цэлае, або празаічная страфа. Менавіта ў звышфразавым адзінстве выяўляецца мастацкая своеасаблівасць твора, яго сэнсавая, стылістычная і інтанацыйная адметнасць. Ад характару звышфразавых адзінстваў залежыць рытм твора. Эпічнасць выкладу,

запаволенасць ствараецца аб'яднаннем некалькіх празаічных строф у адным абзацы. Такая манера ўласціва, напрыклад, К. Чорнаму. Эмацыянальна-экспрэсіўны змест выклікае драбленне празаічнай страфы на шматлікія абзацы. Гэта характэрна, напрыклад, для творчай манеры Янкі Брыля.

*Літ.:* Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1980; Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976; Юрэвіч А. К. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1992; Яўневіч М. С. Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Мн., 1977.

*А. К. Юрэвіч.*

## СТЫЛІСТЫЧНАЯ АФАРБОЎКА СЛОВА

Лексічнае значэнне, якое з'яўляецца сутнасцю, стрыжнем слова, можа ўзбагачацца дадатковай семантычнай якасцю — экспрэсіўнасцю (ад лац. exргеssio выражэнне). Экспрэсіўнасць — гэта адлюстраванне ў слове эмацыянальных і ацэначных адносін чалавека да таго, што ён гаворыць або піша. Так, словы *сонца* і *сонейка* маюць агульнае лексічнае значэнне «нябеснае свяціла», але ў слове *сонейка* ёсць дадатковая якасць — ацэначнасць, якая выражае ласкавыя, спагадлівыя адносіны асобы да названага прадмета. Слова *вецер* значыць 'паветраная плынь', *вятрыска* 'моцны, колкі вецер', *смяяцца* 'выражаць гукамі радасць, весялосць', *хіхікаць* 'смяяцца спадцішка', *ісці* 'перамяшчацца ў прасторы', *дыбаць* 'ісці размерана і важна або нязграбна'. Словы *сонца, вецер, смяяцца, ісці* называюцца нейтральнымі, а *сонейка, вятрыска, хіхікаць, дыбаць* — стылістычна афарбаванымі.

Стылістычная афарбоўка выяўляецца таксама ў словах, якія спрадвеку маюць экспрэсіўную прыкмету, выражаюць станоўчую або адмоўную ацэнку: *маладзец, лайдак, лежабок*; у нейтральных словах, якія ўжываюцца з пераносным значэннем: *заяц, ліса, мядзведзь* (пра чалавека); у формах слоў з суфіксамі ацэнкі, утвораных ад нейтральных слоў: *галубок, зорачка, кацянятка.*

Стылістычна афарбаваныя словы пазначаюцца ў слоўніках адпаведнымі лексікаграфічнымі паметамі: *ласк.* (ласкальнае), *груб.* (грубае), *пагард.* (пагардлівае), *зневаж.* (зневажальнае), *іран.* (іранічнае), *лаянк.* (лаянкавае), *разм.* (размоўнае), *абл.* (абласное), *кніжн.* (кніжнае), *спец.* (спецыяльнае), *уст.* (устарэлае), *гіст.* (гістарычнае), *высок.* (высокае), *паэт.* (паэтычнае) і інш.

Да нейтральнага слова можна падабраць сінонім — слова, стылістычна афарбаванае. Словы нейтральныя і стылістычна афарбаваныя проціпастаўляюцца (нейтральныя — кніжныя, высокія; нейтральныя — размоўныя, прастамоўныя) і па-рознаму выкарыстоўваюцца ў розных моўных сітуацыях, розных моўных стылях.

Сярод кніжных слоў вылучаюцца навуковыя тэрміны, спецыяльныя і высокія, паэтычныя словы. Тэрміны характарызуюцца акрэсленасцю, дакладнасцю значэння, не маюць сінонімаў, не ўтвараюць ацэначных форм. Многія тэрміналагічныя словы — запазычаныя: *дэмас, індыферэнтны, кантынгент, пастулат.* Спецыяльныя словы маюць вузкапрафесійнае ўжыванне: *баланс, балтарэз, рэцыпіент.* Словы высокія і паэтычныя ўласцівыя мове ўрачыста-ўзнёслай паэзіі і прозы: *ветравей, ветразь, квет, лілея.* Пэўная частка кніжных слоў паступова траціць адценне навуковасці, тэрміналагічнасці і пераходзіць у разрад нейтральных: *аргумент, гіпотэза, дыскусія, канцэпцыя.*

Размоўныя (гутарковыя) словы ўжываюцца пераважна ў вуснай і пісьмовай гутарковай мове. Гэта вялікая і разнастайная група слоў. Найбольш тут слоў, блізкіх да нейтральных: *варыва, міжнароднік, прасцяком, частунак*; слоў з эмацыянальна-экспрэсіўным адценнем: *весялушка, лепятуха*; слоў, ужытых з пераносным значэннем: *малаціць, лапатаць* 'хутка гаварыць', *хвост* 'работа, якая не выканана ў тэрмін', *дуб* 'высокі, магутны чалавек' і 'недалёкі, тупы чалавек'. Размоўнымі лічацца і дыялектныя словы, уласцівыя пэўнай тэрыторыі і адлюстраваныя ў мастацкай літаратуры (так званыя дыялектызмы): *балесны, вомельгам, жалязняк, капаніца.* У слоўніках дыялектныя словы маюць памету *абл.* (абласное).

Частка размоўных слоў мае адценне спрошчанасці, грубаватасці, у некаторых слоўніках яны называюцца прастамоўнымі і пазначаюцца Паметай *праст.*: *абібок, гарлапан, мазня, хеўра.* Такія словы заўсёды семантычна ёмістыя, іх нялёгка бывае замяніць у пэўным кантэксце нейтральнымі сінонімамі. Але, разумеючы і правільна ацэньваючы экспрэсіўную вартасць такіх слоў, імі трэба карыстацца асцярожна, бо яны надаюць мове адценне грубасці і развязнасці. Прастамоўныя словы выкарыстоўваюцца ў мастацкіх і публіцыстычных творах толькі як выразны экспрэсіўны сродак характарыстыкі і самахарактарыстыкі персанажаў. Возьмем прыклад з «Палескай хронікі» І. Мележа. Нялюдскасць Глушака і яго сына Яўхіма, іх грубасць, зайздрасць, помслівасць раскрываюцца кожнай рэплікай дыялога, кожнай маналагічнай фразай, насычанай прастамоўнымі словамі: *«Пусці толькі адну* ***галячку****, дак адразу наляціць цэлая* ***гайня****! І не агледзішся, як* ***расшматаюць*** *усё!* ***Распетраць*** *умэнт! — Злосць яго на Яўхіма змянілася здзіўленнем і крыўдай:* ***Абкруціла!*** *Узяла!* ***Галадранка****, а* ***абкруціла*** *як!.. І рукі, і ногі звязала.* ***Бэйбусу*** *такому».*

У навуковым і афіцыйна-дзелавым стылях прастамоўныя словы не ўжываюцца.

У залежнасці ад кантэксту ацэначнасць стылістычна афарбаванага слова можа змяняцца. Так, у вуснах Сцяпана Крыніцкага, персанажа камедыі Я. Купалы «Паўлінка», словы *каханенькі, родненькі* ў розных кантэкстах набываюць то станоўчую, то адмоўную эмацыянальную ацэнку *(«Выбачайце, выбачайце,* ***каханенькія, родненькія,*** *адно не скажыце, што ўсяго было ўдаволь, толькі прынукі не было»; «Маўчы баба!.. Ты,* ***каханенькая, родненькая,*** *нічога не разбіраеш... Валасы доўгія, а розум кароткі»).*

*Літ.:* Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976; Юрэвіч А. К. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1992.

*А. К. Юрэвіч.*

## СТЫЛІСТЫЧНЫЯ НОРМЫ

Стылістычныя нормы — правілы ўжывання стылістычна афарбаваных лексічных адзінак, граматычных форм і сінтаксічных канструкцый у адпаведнасці са зместам і мэтай выказвання, умовамі кантактавання. Стылістычная норма — адно з асноўных паняццяў тэорыі культуры мовы — навукі аб прынятых у моўнай практыцы правілах вымаўлення, ужывання лексічных і граматычных адзінак мовы.

І ў культуры мовы, і ў стылістыцы вырашаюцца практычныя задачы — магчымасць адбору, выкарыстання моўных адзінак. Але ў культуры мовы ўжыванне слоў, граматычных форм і сінтаксічных канструкцый суадносіцца з адпаведнасцю іх сучаснай літаратурнай норме, а ў стылістыцы — з мэтазгоднасцю выбару, іх выразнасцю ў залежнасці ад кантэксту. Адсюль адрозненне: функцыянальна-стылістычная норма, калі адно і тое слова, адна і тая форма або сінтаксічная канструкцыя можа выступаць у розных кантэкстах з рознымі стылістычнымі функцыямі (нейтральнае *цыркачка* 'артыстка цырка', стылістычна афарбаванае *цыркачка* 'жанчына, здатная на экстравагантныя ўчынкі'), і экспрэсіўна-стылістычная норма, напрыклад, ацэначныя формы слоў (памяншальна-ласкальнае *зямелька*), дыялектныя формы ў кантэксце літаратурнага твора *(памірацьму, надзяляцьме).*

Стылістычная норма дапамагае людзям дакладна і вобразна перадаваць свае думкі, правільна разумець выказванне. Кожнаму культурнаму чалавеку неабходна ведаць і за-

хоўваць адзіныя і абавязковыя для ўсіх стылістычныя нормы літаратурнай мовы, пазбягаць стылістычных памылак.

Стылістычныя нормы існуюць у мове як традыцыя, яны складваюцца ў працэсе шматвяковай моўнай практыкі адукаваных людзей, рэгламентуюцца слоўнікамі літаратурнай мовы, замацоўваюцца лепшымі творамі мастацкай і публіцыстычнай літаратуры. Стылістычныя паметы, якія падаюцца ў сучасных лексікаграфічных даведніках, падкрэсліваюць тонкія адценні слоў паводле іх стылістычнай і эмацыянальнай афарбоўкі і памагаюць правільна выбіраць і выкарыстоўваць слова ў пэўнай моўнай сітуацыі.

Стылістычнай нормай для гутарковай мовы з'яўляецца выкарыстанне (побач з нейтральнымі) слоў, якія пазначаны ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» паметай *разм.* : *грыбасей, дарунак, летась, люднець;* слоў і выразаў з выразнай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай: *зубы загаворваць, цягнуць душу; дзетка (ласк.), ветразь (паэт.), дзяляга (разм., неадаб.), дзяржыморда (разм., пагард.), драндулет (разм., жарт.), лецейка (нар.-паэт., ласк.), лілея (паэт.), ментар (устар., іран.)*; функцыянальна-стылістычных форм: *доктарша, прафесарша, паштарка*; разнастайных вобразных сродкаў мовы — эпітэтаў, метафар, параўнанняў: *А рэха крохкае па крапельцы-расіне // Праз цішыню вяртала гукі нам* (В. Зуёнак); *Дзень ужо даўно дагарэў, і на яго папялішчы паўсходзілі буйныя летнія зоркі* (Т. Бондар); *Вясёлай маланкаю ластаўка бліскае, // І просіць засмяглая кнігаўка піць* (П. Панчанка). Гутарковая мова характарызуецца шматлікімі выклічнікамі, часціцамі, дзеяслоўнымі формамі, якія выражаюць імгненнасць дзеяння *(глядзь, скок, хваць, шмыг)*, формамі дзеяслова аднаго часу са значэннем другога часу і форм аднаго ладу са значэннем другога ладу: *Прыеду я аднекуль, а ён выбежыць насустрач і кідаецца каня распрагаць* (К. Чорны); *Пагаварыў бы ты з братам* (Я. Брыль).

Мова афіцыйных дакументаў (законаў, указаў, дагавораў, пратаколаў і інш.) патрабуе дакладнасці, акрэсленасці ў падачы фактаў, паслядоўнасці, адназначнасці фармулёвак. Адпавядаюць стылістычным нормам дзелавых папер сцісласць, эканомнасць выкладу, своеасаблівая кніжная лексіка: *адказчык, ануляваць, ісцец, контрагент* і тэматычна абумоўленая тэрміналогія (юрыдычная, бухгалтарская і інш.). Менавіта ў дзелавых паперах выкарыстоўваюцца аддзеяслоўныя назоўнікі тыпу *затрыманне, пагадненне, непрымяненне* і дзеяслоўныя словазлучэнні замест асобных дзеясловаў: *аказаць дапамогу* 'дапамагчы', *ажыццяўляць кіраўніцтва* 'кіраваць'. Своеасаблівыя фразеалагічныя адзінкі (так званыя «канцылярызмы») надаюць афіцыйнай мове неабходную катэгарычнасць, рэгламентаванасць: *давесці да ведама, узняць пытанне, фронт работ.* Такія моўныя звароты, традыцыйна прынятыя ў афіцыйнай мове, успрымаюцца як трафарэтныя выразы (штампы, шаблоны), чужародныя ў гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры. У афіцыйнай мове памылковым будзе ўжыванне эмацыянальна-экспрэсіўных, дыялектных, прастамоўных, жаргонных слоў і выразаў, вобразных фразеалагізмаў, слоў з пераносным значэннем, усіх відаў экспрэсіўных сінтаксічных канструкцый (пытальных, клічных, эліптычных сказаў, інверсійных, парцэляваных канструкцый), простай мовы.

Мове мастацкай і публіцыстычнай літаратуры ўласціва стылістычная незамкнутасць, здольнасць убіраць у сябе розныя лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя сродкі ў адпаведнасці са спецыфікай твора, задумай аўтара, яго творчымі магчымасцямі. У мастацкім творы можна ўбачыць дыялектныя і вузкатэрміналагічныя моўныя адзінкі, устарэлыя словы і неалагізмы, жарганізмы і нават вульгарызмы, ужыванне якіх павінна быць стылістычна матываваным. Стылістычныя нормы мастацкага твора грунтуюцца на яго эстэтычнай функцыі, што і абумоўлівае выбар і спалучальнасць пэўных моўных сродкаў.

Стылістычная норма — катэгорыя зменлівая. Змяненне стылістычнай нормы залежыць ад шэрага прычын — моўных (лінгвістычных) і нямоўных (экстралінгвістычных). У выніку дзеяння так званага «прынцыпу эканоміі» значна павялічваецца ў мове колькасць скарочаных слоў і канструкцый (артысты тэатра Янкі Купалы — *купалаўцы*, электрычны поезд — *электрычка*, пасяўная кампанія — *пасяўная*), якія трацяць адценне гутарковасці і пераходзяць у разрад нейтральных лексічных адзінак.

Цеснае ўзаемадзеянне беларускай літаратурнай мовы і народных гаворак спрыяе замацаванню шматлікіх дыялектных слоў за сферай літаратурнага ўжывання, яны ўключаюцца ў склад гутарковай лексікі. Так, у «Беларуска-рускім слоўніку» (1962) шэраг слоў мае памету *абл.* (дыялектнае): *галас* 'шум', *гламазда* 'няўклюда', *гожы* 'прыгожы', *гурма* 'гурба' і інш. У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—84) яны падаюцца з паметай *разм.*, г. зн. літаратурнае з адценнем гутарковасці.

Нейтральныя словы, якія характарызавалі дарэвалюцыйны дзяржаўны лад і яго апарат, набылі адценне ўстарэласці: *земскі, соцкі, памешчык, жандар.*

Шматлікія неалагізмы першых паслякастрычніцкіх дзесяцігоддзяў сёння ўспрымаюцца і выкарыстоўваюцца як гістарызмы часу: *кулак, рабфак, нэп, стаханавец.*

Пашырэнне адукацыі, актывізацыя сродкаў інфармацыі спрыяюць таму, што словы, уласцівыя кніжным стылям, становяцца нейтральнымі. Аналагічны працэс адбываецца з навуковымі і спецыяльнымі тэрмінамі, якія трацяць тэрміналагічнасць і функцыяніруюць як нейтральныя агульнаўжывальныя словы: *альтруізм, спецыфіка, рэагаванне, эфектыўнасць* і інш.

Ігнараванне, парушэнне правіл стылістычнай матываванасці, стылістычнай спалучальнасці моўных адзінак выклікае стылістычныя памылкі.

Звязаныя з парушэннем норм моўнай культуры стылістычныя памылкі адрозніваюцца ад памылак лагічных, лексічных, фразеалагічных, словаўтваральных, марфалагічных, сінтаксічных. Стылістычныя памылкі — гэта выпадкі нематываванага ўжывання ў адным стылі мовы слоў, выразаў, сінтаксічных канструкцый, уласцівых іншаму стылю мовы. Найчасцей гэта: а) выкарыстанне ў адным кантэксце living рознастылёвай (гутарковай — кніжнай) лексікі: *У паліклініцы.— Здарова, Зойка, што ты тут робіш? — Я — па вапросу зубоў. Гэта — не жартам: дзяўчына на кіруючай рабоце.* (Я. Брыль); б) нематываванае ўвядзенне ў тэкст нелітаратурнай лексікі (прастамоўных слоў, дыялектызмаў, жарганізмаў): *Саўгас «Забалоцце» — адзін з першых беларускіх саўгасаў. Мясціны тут... **закачаешся***; в) злоўжыванне тэрміналагічнай лексікай, канцылярскімі штампамі ў неспецыяльных тэкстах: *Хмары плылі шпарка, нібы кожная з іх імкнулася першай апынуцца ля **фінішнай прамой***; г) гіпербалічная эмацыянальнасць, нематываванае выкарыстанне вобразных сродкаў мовы (метафар, параўнанняў, эпітэтаў), неапраўданае нанізванне азначэнняў: *На белым абрусе Каця прыгожа, як на вячэры з замежнай дэлегацыяй, расставіла талеркі з ярка-чырвонымі, **як налітымі крывёй**, памідорамі;* д) нематываванае паўтарэнне ў вузкім кантэксце аднаго і таго слова, ужыванне лішніх слоў і таўталагічных выразаў: ***Асноўным** цэнтрам усіх яго думак і дзеянняў была палітычная барацьба; Грошы, **яны** ва ўсе часы мелі патрэбу ў надзейнай ахове;* е) немілагучнасць — ужыванне побач або паўтор аднолькавых гукавых частак слоў, неўласцівы беларускай мове збег галосных і зычных гукаў: *Прыляцелі ўжо жаўранкі; І вось надышоў той чаканы час.*

Стыль выказвання можа парушацца свядома, матывавана. Пісьменнікі выкарыстоўваюць матываванае парушэнне стылю для індывідуалізацыі мовы персанажа або як сродак надан-

ня тэксту сатырычнага, гумарыстычнага, іранічнага каларыту: *У жонкі ахвотна **камандзіроўку** // Бяру я ў нядзелю на Камароўку* (Р. Барадулін); *Дык так, Петрусёк. Можа, як і акрыяю... Перадай прывітанне твайму дому і сваёй дынастыі* (Я. Колас — П. Броўку).

*Літ.:* Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976; Яго ж. Сугучнасць слоў жывых...: Нататкі па стылістыцы мастацкай літаратуры. Мн., 1981; Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1980; Юрэвіч А. К. Стылістыка беларускай мовы. 2 выд. Мн., 1992.

*А. К. Юрэвіч.*

## СУДНІК МІХАІЛ РАМАНАВІЧ



Беларускі мовазнавец М. Р. Суднік нарадзіўся 8 лістапада 1910 г. ў в. Пяцюлёва Полацкага раёна. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1970). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). Кандыдат філалагічных навук (1954). У 1938 г. скончыў Мінскі педагагічны інстытут. У 1930—36, 1938—43 гг. на педагагічнай рабоце, у 1943—44 гг. начальнік упраўлення кадраў Наркамасветы БССР, у 1944—52 гг. навуковы супрацоўнік, вучоны сакратар Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР, у 1952—57 гг. загадчык сектара навуковай тэрміналогіі і сектара слоўнікаў, у 1957—83 гг. дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР і адначасова загадчык сектара лексікалогіі і лексікаграфіі, з 1986 г. старшы навуковы супрацоўнік аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі гэтага інстытута.

Галоўны кірунак даследаванняў М. Р. Судніка — беларуская лексікалогія і лексікаграфія, арфаграфія і тэрміналогія, анамастыка, гісторыя беларускага мовазнаўства. М. Р. Суднік — адзін з аўтараў зводу «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959). Ён — актыўны ўдзельнік стварэння шэрага слоўнікаў акадэмічнага тыпу: «Руска-беларускага слоўніка» (1953; 2 выд. Т. 1—2, 1982), «Беларуска-рускага слоўніка» (1962; 2 выд. Т. 1—2, 1988—89), «Руска-беларускага слоўніка грамадска-палітычнай тэрміналогіі» (1970), «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—84), школьнага «Арфаграфічнага слоўніка» (у сааўтарстве з М. П. Лобанам, 6 выд. 1990).

Разам з беларускімі мовазнаўцамі і вучонымі славянскіх краін М. Р. Суднік ствараў 14-моўны «Слоўнік славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі» (т. 1—2. Прага, 1977—79).

М. Р. Суднік склаў і выдаў адзіны ў рэспубліцы навуковы дапаможнік па ўнармаванні і папулярызацыі дакументальнай формы асабовага імя — «Слоўнік асабовых уласных імён» (1965). У ім сабраны каля 2500 асабовых беларускіх імён, што бытуюць на Беларусі, з іх асноўнымі і гутарковымі варыянтамі. Тры часткі слоўніка («Беларуска-руская частка», «Руска-беларуская частка», «Устарэлыя і новыя рэдкаўжывальныя імёны») фіксуюць мужчынскія, потым жаночыя імёны ў афіцыйнай і народна-гутарковай формах *(Андрэй — Андрос — Андрук — Андрусь; Агрыпіна — Агруся — Груня — Рыпіна).*

У 1959—85 гг. М. Р. Суднік старшыня Беларускага, з 1973 г.— член Міжнароднага камітэтаў славістаў, член Міжнароднай камісіі па славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі, а таксама Камісіі па назвах адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак і населеных пунктаў пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Беларусі. Удзельнічаў у рабоце 6 Міжнародных кангрэсаў славістаў.

*Тв.:* Гісторыя ўзнікнення і этапы развіцця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. 4; Навуковая распрацоўка пытанняў беларускага мовазнаўства ў савецкі перыяд // Тамсама. Мн., 1959. Вып. 6; Сучасны стан і задачы развіцця славістыкі ў Беларусі // Тыпалогія і гісторыя славянскіх моў і ўзаемасувязі славянскіх літаратур. Мн., 1967; Беларусістыка напярэдадні 50-годдзя Саюза ССР // Бел. лінгвістыка. Мн., 1972. Вып. 1; З гісторыі слоў *зверыяда, зверыядавец* // Тамсама. Мн., 1974. Вып. 6; Акадэмік Я. Ф. Карскі і беларуская філалогія: Да 120-годдзя з дня нараджэння // Тамсама. Мн., 1981. Вып. 19; Пісьменнік, вучоны, грамадзянін: Да 90-годдзя з дня нараджэння К. К. Крапівы // Тамсама. Мн., 1986. Вып. 29; Алфавит и орфографическая система белорусского языка // Опыт совершенствования алфавитов и орфографий языков народов СССР. Мн., 1982; Іван Іванавіч Насовіч — выдатны вучоны і асветнік: Да 200-годдзя з дня нараджэння // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 2.

*Літ.:* Крыўко М. Н. Член-карэспандэнт АН БССР Міхаіл Раманавіч Суднік: (Да 80-годдзя з дня нараджэння) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1990. № 5.

*І. К. Германовіч.*

## СУПАСТАЎЛЯЛЬНАЯ ЛІНГВІСТЫКА

Супастаўляльная лінгвістыка — галіна мовазнаўства, якая шляхам параўнання даследуе любыя пары родНасных і няродНасных моў з мэтай выяўлення агульнага і спецыфічнага ў прыватных (фанетычных, марфалагічных, сінтаксічных, лексічных, фразеалагічных і стылістычных) сістэмах гэтых моў.

Як асобная галіна мовазнаўства супастаўляльная лінгвістыка існуе з 1950-х гадоў. Але яшчэ ў 16 ст. супастаўляльныя моўныя даследаванні вяліся ў складзе больш шырокага параўнальнага мовазнаўства. Па аналогіі з граматычнымі апісаннямі класічных (лацінскай, грэчаскай і старажытнаяўрэйскай) моў ужо тады пачалі ствараццa граматыкі нацыянальных моў Еўропы. Выяўленыя падчас распрацоўкі граматык шматлікія марфалагічныя падабенствы паміж многімі еўрапейскімі мовамі засведчылі тую або іншую ступень роднасці гэтых моў. У значнай ступені гэта садзейнічала фарміраванню параўнальна-гістарычнага метаду ў мовазнаўстве, які амаль на 3 стагоддзі стаў вядучым метадам даследавання моў. З цягам часу лінгвісты заўважылі, што можна параўноўваць падобныя рысы ў розных мовах, не ставячы мэты даказаць іх роднасць ці агульнасць гістарычнага паходжання. Такія даследаванні, у якіх гістарычны аспект не бярэцца пад увагу, атрымалі назву супастаўляльных. Вынікам супастаўляльнага вывучэння моў ужо ў 17—18 ст. сталі двухмоўныя перакладныя слоўнікі і спроба стварэння ўсеагульнай універсальнай граматыкі, якая разглядалася як эталон для супастаўлення народна-дыялектных, класічных і любых іншых моў.

Такім чынам, аснова супастаўляльнага метаду — прынцып універсальнасці граматычных катэгорый і многіх іншых моўных паняццяў — была вызначана яшчэ мовазнаўцамі мінулых стагоддзяў. Тэарэтычнае абгрунтаванне супастаўляльны метад упершыню атрымаў у пачатку 20 ст. ў працах І. А. Бадуэна дэ Куртэнэ і. інш. Далейшаму развіццю супастаўляльнай лінгвістыкі спрыялі работы рускіх і замежных вучоных 1930—50-х гадоў Я. Д. Паліванава, Ш. Балі, Л. У. Шчэрбы, С. І. Бернштэйна, В. М. Ярцавай і інш. На сённяшні дзень супастаўляльнае апісанне моў — распрацаваны і даволі разгалінаваны раздзел лінгвістычнай навукі, які ўносіць свой важкі ўклад у развіццё як тэарэтычных (перш за ўсё тыпалагічных), так і прыкладных даследаванняў (стварэнне двухмоўных слоўнікаў і супастаўляльных

граматык навучальнага характару, удасканаленне методыкі выкладання моў і інш.).

У межах супастаўляльнай лінгвістыкі вылучаюцца супастаўляльная граматыка, супастаўляльная лексікалогія і супастаўляльная стылістыка. У сваю чаргу, накіраванасць такіх даследаванняў на выяўленне падабенстваў або адрозненняў паміж мовамі дае падставы падзяляць іх на канфрантацыйныя і кантрастыўныя. Нарэшце, у залежнасці ад таго, якія ўласцівасці моўных з'яў супастаўляюцца, даследаванні падзяляюцца на фармальна-структурныя (супастаўленне ў напрамку «ад формы да зместу») і функцыянальна-семантычныя (супастаўляльнае апісанне ў напрамку «ад зместу да формы»).

Акрамя таго, асобныя замежныя даследчыкі ў залежнасці ад навучальных мэт часам вылучаюць унутрымоўныя (супастаўленне дыялектаў, сацыяльных жаргонаў і літаратурнай мовы), міжмоўныя (параўнанне розных моў) і моўна-ідыялектныя супастаўленні (параўнанне літаратурнай мовы і той ступені яе ведання, якая ўласціва пэўнай асобе).

Беларускі моўны матэрыял стаў актыўна выкарыстоўвацца ў супастаўляльных даследаваннях у пачатку 1960-х гадоў. Практычная іх неабходнасць была абумоўлена пашырэннем беларуска-рускага двухмоўя. Ва ўмовах такога блізкароднаснага двухмоўя нярэдкай з'явай становіцца інтэрферэнцыя — адхіленне ад нормаў адной мовы пад уплывам нормаў другой, што ў канчатковым выніку вядзе да фарміравання вядомай «трасянкі». Таму, каб пазбегнуць такой з'явы пры двухмоўным навучанні, вырашэнне многіх культурна-моўных пытанняў на Беларусі павінна было ўключаць супастаўляльны аспект. Напрыклад, Ф. М. Янкоўскі быў нават перакананы, што «параўнанне асаблівасцей беларускай і рускай моў пры іх вывучэнні — неабходная ўмова авалодання культурай абедзвюх моў» (Янкоўскі Ф. М. Сучасная беларуская мова. Мн., 1984. С. 30).

На першым этапе свайго развіцця (канец 1950 — пачатак 60-х гадоў) супастаўляльныя даследаванні беларускай і рускай моў вяліся пад моцным уплывам параўнальна-гістарычнага мовазнаўства ў напрамку «ад формы да зместу» і мелі фармальна-структурны характар. Пры гэтым найбольшую ўвагу даследчыкаў прыцягнулі суадносныя з'явы граматычнага (працы П. В. Вярхова, М. І. Гурскага, Г. Дз. Жылуновіч, І. А. Карабаня, Ц. П. Ломцева, А. Я. Міхневіча, П. П. Шубы, М. С. Яўневіча і інш.) і лексічнага (працы І. К. Германовіча, І. А. Кісялёва, І. С. Козырава, В. П. Краснея, М. І. Крукоўскага, Л. М. Шакуна і інш.) узроўняў, што тлумачылася практычнымі патрэбамі ўдасканалення курса «Параўнальнай граматыкі рускай і беларускай моў» для ВНУ і акадэмічных руска-беларускага і беларуска-рускага слоўнікаў. Перш за ўсё былі выяўлены знешнія адрозненні паміж рознымі формамі граматычных і лексічных адзінак і толькі потым — адрозненні ў іх значэннях.

Крыху пазней (у канцы 1960 — пачатку 70-х гадоў) аб'ектам супастаўляльнага апісання ў працах Л. Ц. Выгоннай, Р. В. Крыловай, А. А. Мятлюк, П. В. Садоўскага і інш. сталі суадносныя з'явы фанетыкі блізкароднасных моў. Адзінкавымі даследаваннямі М. Г. Булахава, М. П. Карповіч і інш. прадстаўлена супастаўляльная стылістыка беларускай і рускай моў.

Пры параўнальным апісанні лексікі беларускай і рускай моў супастаўляцца могуць і асобныя словы, і цэлыя групы слоў, што значна больш актуальна. Многія словы адной і той жа лексіка-семантычнай групы ў беларускай і рускай мовах цалкам ці часткова супадаюць па форме і значэнні, але пры гэтым маюць розную структурную значнасць у складзе адпаведнай групы слоў. Напрыклад, супастаўляльны аналіз беларускіх і рускіх назваў пораў года паказаў амаль поўнае супадзенне па форме і значэнні ўсіх 4 лексем у складзе кожнай з гэтых мікрасістэм: *лета, восень, зіма, вясна — лето, осень, зима, весна.* Аднак па колькасці выяўленых семантычных сувязей з іншымі тэмпаральнымі (часавымі) лексемамі ў тэкстах, а значыць і па сваёй структурнай значнасці, у складзе беларускай мікрасістэмы назваў пораў года на першым месцы стаіць лексема *зіма,* а ў складзе рускай — *лето.* Адзначаныя адрозненні маюць пазамоўнае тлумачэнне, звязанае з адпаведнымі адрозненнямі ў кліматычных умовах Беларусі і Расіі.

Такім чынам, вынікі супастаўляльнага апісання дзвюх моў могуць мець цікавасць і для этнаграфіі, але гэта адбываецца толькі ў тым выпадку, калі супастаўляльнае даследаванне вядзецца на шырокім тэкставым матэрыяле ў напрамку «ад зместу да формы» і мае функцыянальна-семантычны характар. Менавіта гэтым тлумачыцца той факт, што на сучасным этапе супастаўляльнага апісання граматычных сістэм беларускай і рускай моў усё часцей выкарыстоўваюцца асобныя элементы тэорыі функцыянальнай граматыкі (працы М. І. Канюшкевіч, В. К. Шчэрбіна і інш.), якая мае перавагі перад традыцыйнай параўнальнай граматыкай. Так, у якасці асноўнага адрознення паміж беларускай і рускай катэгорыямі асобы параўнальная граматыка падае наяўнасць у беларускай мове дзеяслоўных форм загаднага ладу з канчаткам *ма (рэжма, сыпма, плачма* і інш.) і адсутнасць такіх форм у рускай мове. Аднак сучасны функцыянальна-семантычны аналіз многіх беларускіх сказаў паказвае, што такія формы займаюць вельмі нязначнае месца ў сістэме рознаўзроўневых сродкаў, пры дапамозе якіх паняційная катэгорыя персанальнасці рэалізуецца ў беларускай мове. Існуюць значна больш істотныя адрозненні ў нормах функцыяніравання беларускай і рускай катэгорый асобы. У прыватнасці, носьбіты рускай літаратурнай мовы пры ўжыванні асабовых форм дзеяслова часцей «я-каюць» і «вы-каюць», а беларускай — «мы-каюць» і «ты-каюць». Гэтыя адрозненні сведчаць пра наяўнасць у рускай мове працяглай літаратурнай традыцыі і пра моцную народную аснову беларускай літаратурнай мовы.

Акрамя беларуска-рускіх супастаўляльных даследаванняў, даволі актыўна развіваецца супастаўляльнае апісанне беларускай і англійскай, нямецкай, французскай і інш. моў (працы С. А. Лавыш, У. І. Марцінеўскага, А. Я. Міхневіча, А. А. Мятлюк, В. А. Няхай, М. П. Навіцкага, Т. В. Паплаўскай, А. М. Шаранды і інш.), беларускай і ўкраінскай, польскай, літоўскай моў (працы У. В. Анічэнкі, А. Барташэвіч, М. А. Бірылы, А. І. Грынавецкене, І. Камендацкай, В. П. Лемцюговай, Э. Смулковай і інш.). Важныя праблемы тыпалагічнай і арэальнай лінгвістыкі разглядаюцца ў супастаўляльных даследаваннях беларускай і паўднёваславянскіх моў (працы У. А. Карпава, В. У. Мартынава, А. Я. Міхневіча, Б. Ю. Нормана, А. Я. Супруна, Г. А. Цыхуна і інш.). Некаторыя з гэтых работ друкаваліся ў міжнародным часопісе «Съпоставително езикознание», які з 1976 года выдаецца ў Балгарыі.

*Літ.:* Гурскі М. І. Параўнальная граматыка рускай і беларускай моў: Фанетыка і марфалогія. 2 выд. Мн., 1972; Булахов М. Г. Основные вопросы сопоставительной стилистики русского и белорусского языков. Мн., 1979; Грабчиков С. М. Межъязыковые омонимы и паронимы: Опыт рус.-бел. словаря. Мн., 1980; Германович И. К., Михневич А. Е., Шуба П. П. Белорусско-русские языковые отношения: Контакты, двуязычие, методика обучения: (Материалы к библиографии) // Рус. язык. Мн., 1981—90. Вып. 1—10; Русский язык в Белоруссии. Мн., 1985; Белорусско-русский паралексический словарь-справочник. Мн., 1985; Метлюк А. А. Взаимодействие просодических систем в речи билингва. Мн., 1986; Конюшкевич М. И. Синтаксис близкородственных языков: Тождество, сходства, различия. Мн., 1989; Новое в зарубежной лингвистике. Вып. 25. Контрастивная лингвистика. М., 1989; Сопоставительное описание русского и белорусского языков: Морфология. Мн., 1990; Кривицкий А. А., Михневич А. Е., Подлужный А. И. Белорусский язык для говорящих по-русски. 3 изд. Мн., 1990.

*В. К. Шчэрбін.*

## СУПРУН АДАМ ЯЎГЕНАВІЧ



Нарадзіўся 24 кастрычніка 1928 г. ў Палтаве. У 1952 г. скончыў Кіргізскі універсітэт. У 1955 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю пра словы з каранямі лічэбнікаў у рускай мове. Працаваў загадчыкам кафедры Кіргізскага універсітэта. З 1966 г. загадвае кафедрай тэарэтычнага і славянскага мовазнаўства ў БДУ. Доктарская дысертацыя (1966) прысвечана славянскім лічэбнікам. Прафесар (1967). Доктар педагагічных навук (1982). З'яўляецца членам Беларускага камітэта славістаў, камісіі па лексікалогіі і лексікаграфіі пры Міжнародным камітэце славістаў, чатырох акадэмічных навуковых саветаў, членам рэдакцыйнага савета часопіса «Русский язык в национальной школе» і навуковага штогодніка «Балто-славянские исследования». Удзельнік 4-га, 7—10-га Міжнародных з'ездаў славістаў, шэрага міжнародных навуковых канферэнцый і сімпозіумаў, чытаў лекцыі і выступаў з дакладамі ва універсітэтах і даследчых лінгвістычных установах Балгарыі, Венгрыі, Польшчы, Чэхіі, Югаславіі, Даніі, Германіі, ЗША, Аўстрыі.

А. Я. Супрун — аўтар больш чым 500 навуковых публікацый разнастайнай тэматыкі. Вялікае месца ў творчым актыве вучонага займаюць працы па розных пытаннях рускай і іншых славянскіх моў. Лічэбніку ў гэтых мовах ён прысвяціў манаграфічныя даследаванні «Вытворныя назоўнікі з каранямі лічэбнікаў» (1953), «Пра рускія лічэбнікі» (1959), «Стараславянскія лічэбнікі» (1961), «Палабскія лічэбнікі» (1962), «Лічэбнік і яго вывучэнне ў школе» (1964), «Славянскія лічэбнікі» (1969) і шмат артыкулаў.

Вучоны распрацаваў арыгінальную тэорыю часцін мовы ў славянскіх мовах, якую выклаў у манаграфіі «Часціны мовы ў рускай мове» (1971) і дакладзе «Эвалюцыя сістэмы часцін мовы ў славянскіх мовах» (1988) на 10-м Міжнародным з'ездзе славістаў. Шмат займаецца праблемамі лексікі славянскіх моў. Свае погляды аб лексічных узаемаўплывах, дыстрыбуцыйна-статыстычным аналізе лексічнай семантыкі, мэтазгоднасці імавернаснага падыходу да вывучэння лексікі і супастаўляльна-тыпалагічным аналізе яе ў славянскіх мовах ён абгрунтаваў у дакладах на розных навуковых канферэнцыях і ў шматлікіх артыкулах: «З назіранняў над лексікай «Предословия» Скарыны» (1967), «Беларуска-іншаславянскія лексічныя паралелі» (1969), «Лексіка і верагоднасны характар мовы» (1973), «Лексічная сістэма і метады яе вывучэння» (1975), «Лексічная тыпалогія славянскіх моў» (1983) і інш. А. Я. Супрун з'яўляецца сааўтарам 1-га (1978) і 3-га (1984) тамоў «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы». Сумесна з Н. С. Мажэйка даследчык працуе над «Частотным слоўнікам беларускай мовы», які, па задуме аўтараў, будзе складацца з некалькіх выпускаў, прысвечаных асобным яе стылістычным разнавіднасцям. Ужо выдадзены выпускі па лексічнай частотнасці ў мастацкай прозе (1976), публіцыстыцы (1979), вуснай народнай творчасці (1982), гутарковай мове (1989) і паэзіі (1992).

А. Я. Супрун — буйнейшы спецыяліст па палабскай мове. Яго працы «Палабскія лічэбнікі» (1962), «Лексічная спалучальнасць у палабскай мове» (1973), «Асноўныя праблемы палабскай семасіялогіі» (1978), «Палабская мова» (1987) атрымалі сусветную вядомасць.

Значнае месца сярод навуковых прац А. Я. Супруна займаюць даследаванні руска-беларускага моўнага ўзаемадзеяння. На падставе ўсебаковага вывучэння гэтай праблемы вучоны распрацаваў тэорыю выкладання рускай мовы ў школах Беларусі, галоўная ідэя якой — захаваць родную мову вучняў і прывіць ім аўтаномнае двухмоўе. Найбольш поўна тэорыя выкладзена ў манаграфіях «Лінгвістычныя асновы вывучэння граматыкі рускай мовы ў беларускай школе» (1974) і «Змест навучання рускай мове ў беларускай школе» (1987).

А. Я. Супрун — аўтар падручніка «Уводзіны ў славянскую філалогію» (1 выд. 1981, разам з А. М. Калютам; 2 выд. 1989) для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей універсітэтаў. Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле створаны дапаможнікі «Уводзіны ў спецыяльнасць» (1977) і «Агульнае мовазнаўства» (1983). Плённа займаецца вучоны праблемамі агульнага мовазнаўства. Вынікі даследаванняў па гэтай тэме выкладзены ў манаграфіях «Лекцыі па мовазнаўстве» (1971), «Лекцыі па мовазнаўстве» (1978), «Лекцыі па лінгвістыцы» (1980) і шматлікіх артыкулах. Некаторыя яго лінгвістычныя працы перакладзены на замежныя мовы і надрукаваны ў Балгарыі, Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, Польшчы, Югаславіі, Германіі, Японіі.

*Тв.:* «Экзотическая» лексика // Научные доклады высшей школы: Филологич. науки. 1958. № 2; К особенностям порождающей языковой системы ребенка // Психология грамматики. М., 1968; Дапасаванне выказніка да колькаснага дзейніка ў беларускай мове // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мн., 1972; Соотношение школьных курсов грамматики белорусского и русского языков // Вопросы преподавания русского языка в школе с белорусским языком обучения. Мн., 1973; К изучению тюркизмов в белорусской лексике // Тюркизмы в восточнославянских языках. М., 1974; Въпроси типологичното съпоставяне на белоруската и българската лексика // Съпоставително езикознание. София, 1980. Г. 5. № 5; Некаторыя псіхалінгвістычныя асаблівасці беларуска-рускага двухмоўя (разам з Г. П. Кліменка) // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Супастаўляльнае (канфрантацыйна-тыпалагічнае) вывучэнне лексікі славянскіх моў // Весн. БДУ. Сер. 4, 1983. № 1; К лексической структуре древнерусского текста (разам з А. А. Кожынавай) // Проблемы лингвистики текста. Мюнхен, 1989.

*Літ.:* Библиографический указатель по славянскому и общему языкознанию: Проф. А. Е. Супрун. Самарканд, 1984.

*І. К. Германовіч.*

## СЦЯЦКО ПАВЕЛ УЛАДЗІМІРАВІЧ



Беларускі мовазнавец П. У. Сцяцко нарадзіўся 5 сакавіка 1930 г. ў в. Грабава Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. У 1953 г. скончыў беларускае аддзяленне факультэта мовы і літаратуры Гродзенскага пединстытута. Доктар філалагічных навук (1980), прафесар (1983). Выдатнік

народнай асветы Рэспублікі Беларусь (1980). Працаваў выкладчыкам кафедры беларускай мовы Гродзенскага педінстытута (1953—60), дацэнтам і прафесарам кафедры беларускай мовы Мінскага педінстытута (1962—81), загадчыкам кафедры агульнага і руска-славянскага мовазнаўства Гомельскага універсітэта (1981—90), загадчыкам кафедры беларускай культуры (1990—91), а з ліпеня 1991 г.— кафедры беларуска-славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Гродзенскага універсітэта.

Асноўныя кірункі навуковых даследаванняў П. У. Сцяцко — словаўтварэнне народна-дыялектнай і літаратурнай беларускай мовы, словаўтваральныя сувязі славянскіх моў, лексікалогія, дыялекталогія, этымалогія, лінгвістычная тэрміналогія, фаналогія, граматыка сучаснай беларускай літаратурнай мовы, мова мастацкіх твораў, культура літаратурнай мовы і маўлення, методыка выкладання беларускай мовы ў ВНУ.

П. У. Сцяцко грунтоўна даследаваў гаворкі роднай Зэльвеншчыны. У «Дыялектным слоўніку: (З гаворак Зэльвеншчыны)» (1970) прадстаўлена больш за 2500 слоў, сабраных у 16 населеных пунктах. Значэнне лексем раскрываецца праз літаратурны адпаведнік, або, калі такога не знаходзіцца, апісальна.

Дзве працы — «Народная лексіка» (1970) і «Народная лексіка і словаўтварэнне» (1972) — даследчык прысвяціў аналізу асобных пластоў бытавой лексікі ў гаворцы Зэльвеншчыны. Прааналізаваны прадметна-тэматычныя групы назваў ежы, адзення і яго частак, ткацтва і тканін, абутку, гаспадарчых забудоў, сядзібы і яе наваколля, мэблі, хатняга начыння, посуду, упрыгожанняў, гаспадарчых прылад, транспартных сродкаў і інш. Кожнаму слову прысвечаны асобны артыкул, з якога можна даведацца пра гісторыю лексемы, яе паходжанне, месца ў сістэме гаворкі, адносіны да літаратурнай мовы. П. У. Сцяцко робіць вывад, што асноўныя словаўтваральныя спосабы ў дыялектнай мове, як і ў літаратурнай,— марфалагічны, лексіка-сінтаксічны і семантычны, толькі ў першай яны больш багатыя і разнастайныя.

У манаграфіі «Беларускае народнае словаўтварэнне: Афіксальныя назоўнікі» (1977) П. У. Сцяцко падрабязна апісвае народна-дыялектнае словаўтварэнне (афіксальныя назоўнікі), вызначае прадуктыўнасць словаўтваральных тыпаў, іх рэгулярнасць. Аўтар на канкрэтных прыкладах даказвае, што ў гаворках больш словаўтваральных афіксаў, чым у літаратурнай мове, што народна-дыялектная мова актыўна ўздзейнічае на словаўтварэнне мовы літаратурнай. У манаграфіі апісана шмат агульнанародных словаўтваральных тыпаў, якія не былі зафіксаваны ў акадэмічнай «Граматыцы беларускай мовы» (т. 1, 1962). Вынікі гэтага даследавання сталі асновай раздзела «Словаўтварэнне» ў акадэмічнай «Беларускай граматыцы» (ч. 1, 1985).

П. У. Сцяцко аўтар навучальнага дапаможніка «Пачатковы курс мовазнаўства» (1993), сааўтар падручніка для педвучылішчаў «Беларуская мова» (2 выд. 1992), навучальных дапаможнікаў для філалагічных факультэтаў ВНУ Беларусі «Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы» (з М. С. Яўневічам, 1969; 3 выд. 1987), «Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія» (1975, 1980), «Сучасная беларуская літаратурная мова: Лексікалогія. Фразеалогія. Лексікаграфія. Фразеаграфія. Фаналогія. Арфаэпія. Графіка і арфаграфія» (1976), «Аналіз слова, словазлучэння, сказа» (1977), «Лінгвістычная тэрміналогія ў курсах ВНУ» (1984, на рускай мове), «Руска-беларускага слоўніка лінгвістычнай тэрміналогіі» (1988), «Слоўніка лінгвістычных тэрмінаў» (з М. Ф. Гуліцкім, Л. А. Антанюк, 1990) і інш.

*Тв.:* З назіранняў над мовай і стылем рамана Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды» // Материалы научно-теоретической конференции Минского пед. ин-та. Мн., 1965; Навуковая біяграфія імёнаў // Полымя. 1966. № 7; Народная фразеалогія // Тамсама. 1967. № 2; Адкуль бяруцца прозвішчы // Тамсама. 1968. № 4; Шанаваць слова // Тамсама. 1968. № 8; Шанаваць роднае слова // Тамсама. 1989. № 11; З пашанай да народнай мовы // Тамсама. 1990. № 4; Форма дыктуецца зместам // Тамсама. 1991. № 6; Уласныя асабовыя імёны, іх варыянты і ўжыванне ў народнай мове // З жыцця роднага слова. Мн., 1968; Размежаванне тыпаў даданых сказаў, злучнікаў і злучальных слоў // Нар. асвета. 1968. № 4; Цяжкія выпадкі ў размежаванні членаў сказа // Тамсама. 1968. № 11; Корань і аснова мовы літаратурнай // Тамсама. 1980. № 6; Некаторыя пытанні марфемнай будовы слова // Тамсама. 1981. № 6; Пытанні словаўтваральнага аналізу слова // Тамсама. 1981. № 7; Структура нашых імён (разам з В. А. Капытка) // Тамсама. 1981. № 5; Стылістычнае выкарыстанне германізмаў у рамане Я. Брыля «Птушкі і гнёзды» // Навуковыя працы Мінскага пед. ін-та. Т. 5. Філалогія. Мн., 1975. Вып. 1; Неасіміляваны іншаславянскі тэкст у рамане Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды» // Лінгвістычны аналіз тэксту. Мн., 1975; Семантычная і словаўтваральная структура складаных назоўнікаў гутарковай мовы // Бел. мова. Мн., 1983. Вып. 11; Семантычная і словаўтваральная структура народных мікалагічных намінацый // Тамсама. 1984. Вып. 12; Субстантыўныя словаўтваральныя дублеты ў беларускай народна-дыялектнай мове// Бел. лінгвістыка. Мн., 1978. Вып. 12; Назоўнікі з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі і стылістычнай мадыфікацыі ў беларускай народна-дыялектнай мове // Тамсама. 1979. Вып. 16; Беларуская лінгвістычная тэрміналогія ў сферы фіксацыі // Тэрміналагічны зборнік "83. Мн., 1985; Да пытання аб балтыйскім паходжанні некаторых беларускіх прозвішчаў // Весн. БДУ. Сер. 4. Філалогія. 1986. № 3; О функциях приставки *наи-/най-* в современных русском и белорусском литературных языках // Тамсама. 1989. № 1; Народная словатворчасць // Бел. Мова і літ. ў школе. 1989. № 12; Размежаванне відаў даданых сказаў // Тамсама. 1990. № 3; Зберажэм усё роднае // Тамсама. 1991. № 1; Віды аднасастаўных сказаў і іх размежаванне // Тамсама. 1991. № 5; Захаваць нацыянальнае аблічча беларускай мовы // Тамсама. 1991. № 10; Я. Карскі як даследчык беларускага словаўтварэння // Са спадчыны акадэміка Я. Карскага. Гродна, 1991; Надзённыя пытанні рэфармавання сучаснага беларускага пісьма // Дыялекталогія і культура беларускай мовы. Мн., 1991; Удасканальваць і развіваць, а не кансерваваць: Сённяшні і заўтрашні дзень роднага слова // Роднае слова. 1992. № 1; Сваё і чужое: Дзеясловы на *-аваць* і *-іраваць* у сучаснай беларускай мове // Тамсама. 1992. № 7—8; Нарматыўнасць трывальна-часовых формаў дзеяслова // Тамсама. 1992. № 11; Вярнуцца да свайго карэння: Нататкі пра некаторыя пашыраныя дублеты // Тамсама. 1992. № 12.

*І. У. Саламевіч.*

## СЦЯШКОВІЧ ТАЦЦЯНА ПІЛІПАЎНА

Т. П. Сцяшковіч нарадзілася 25 снежня 1904 г. ў г. Чэрвень Мінскай вобласці. Кандыдат філалагічных навук (1956), дацэнт (1961). Заслужаная настаўніца БССР (1947). У 1930 г. скончыла БДУ. Настаўнічала. У 1947—83 гг. у Гродзенскім універсітэце (у 1957—74 гг. загадвала кафедрай беларускай мовы). Памерла 6 лістапада 1986 г.

Т. П. Сцяшковіч даследавала дыялекталогію і гісторыю беларускай мовы, дыялектную лексіку, словаўтварэнне, мову пісьменнікаў, распрацоўвала методыку выкладання мовы ў вышэйшых навучальных установах, вывучала творчую спадчыну акадэміка Я. Ф. Карскага.

У яе кнізе «Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. БССР» (Гродна, 1959) раскрываюцца фанетычныя, марфалагічныя, сінтаксічныя асаблівасці гаворак гэтага раёна, паказана іх месца ў групе беларускіх гаворак. Змешчаны слоўнік, складзены на аснове лексічных матэрыялаў, сабраных у Ваўкавыскім раёне. У яго ўвайшло больш як 1000 слоў, сярод іх як уласна дыялектныя (*гавёс* 'авёс', *жывіна* 'жывёла', *жыраво* 'топкае балота', *жыцвіца* 'пустазелле', *зупка* 'суп'), так і агульнанародныя словы.

«Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці» (1972) Т. П. Сцяшковіч змяшчаюць каля 10 тысяч слоў і належаць да тыпу тлумачальна-перакладных слоўнікаў. Першая частка кнігі прысвечана лексіцы, другая ўключае больш за 1400 выслоўяў, фразеалагізмаў, прыказак і прымавак, што бытуюць на Гродзеншчыне. Слоўнік дае ўяўленне пра лексічную сістэму гродзенскага рэгіёна, яе багацце. У ім знайшлі адлю-

страванне розныя лексічныя пласты. Так, побач са словамі, што называюць прадметы і паняцці старога жыццёвага ўкладу і традыцыйнага побыту (*дзевятнік, дзесятуха, Ілля* — рэлігійныя святы; *хрысцінніке, хрысціны, хрэсьбіны* — абрады і г. д.), у слоўніку падаюцца словы, якія паявіліся ў гаворках у паслярэвалюцыйны або ў пасляваенны час, словы, якія ўжываюцца, бадай, толькі на тэрыторыі гэтага моўнага рэгіёна (*біндзіга* 'край зямлі над возерам ці над рэчкай', *кампан* 'сябар, таварыш', *макша* 'п'яніца', *мека* 'авечка', *навік* 'новы чалавек' і г. д.). Акрамя лексічных у слоўніку прадстаўлены і семантычныя дыялектызмы (*брак* 'нястача', *надомнік* 'прымак', *судзіцца* 'прызначацца каму-небудзь' і г. д.). Шырока прадстаўлена ў слоўніку словаўтваральная і лексічная сінанімія (*насыпка — насыпня, падваротня — падваротніца, трапальніца — трапальшчыца — трапанніца, хлапчак — хлапчук — хлапчаня — хлапчыско, асавік — асавяк — савяк — чырвонец — чырвонагаловік — падасінавік*). У слоўніку надзвычай багатае і своеасаблівае фанетычнае (*кубёлак — кубэлак, шворан — шворань, шпонга — шпонка* і інш.) і марфалагічнае (*дыхт — дыхта, табак — табака, трам — трама* і інш.) вар'іраванне слоў.

На такіх самых прынцыпах грунтуецца і «Слоўнік Гродзенскай вобласці» Т. П. Сцяшковіч (1983). У яго ўвайшло амаль 8 тысяч рэестравых слоў, больш за 600 фразеалагізмаў і 500 прыказак, прымавак і загадак. Назіраюцца тыя ж моўныя асаблівасці, што і ў «Матэрыялах...», але лексіка не паўтарае тую, што ўвайшла ў іх.

У манаграфіі Т. П. Сцяшковіч «Займеннік у беларускай мове» (1977) асвятляецца гісторыя форм займеннікаў на матэрыяле пісьмовых помнікаў старажытнарускай, старабеларускай моў, на дадзеных народных гаворак і сучаснай мастацкай літаратуры.

*Тв.:* З назіранняў над мовай К. Крапівы. Мн., 1961; Мова твораў Міхася Лынькова. Гродна, 1965; Мова эпапеі Міхася Лынькова «Векапомныя дні». Гродна, 1965; Проведение практических занятий по диалектологии // Межреспубликанский научно-методический семинар заведующих кафедрами языков педагогических институтов: Докл. и сообщения. Киев, 1959; Методыка стылістычнага аналізу прыметнікаў у паэме С. Гаўрусёва «Профіль веку» // Тез. докл. респ. межвуз. науч.-метод. конф. по педагогике и методике преподавания гуманитарных дисциплин. Гродно, 1969; Прыналежныя займеннікі ў беларускай мове // Бел. мова і мовазнаўства. Мн., 1974. Вып. 2; Аповесць Якуба Коласа «На прасторах жыцця» // Лінгвістычны аналіз тэксту: Матэрыялы семінара. Мн., 1975. *М. Н. Крыўко.*

# СЭНС І ЗНАЧЭННЕ

Паняцці сэнсу і значэння адносяцца да зместу знамянальных моўных адзінак і складаюць сутнасць самой мовы, якая і служыць менавіта для выражэння і перадачы гэтага зместу. Дзяленне зместу моўных адзінак у сучаснай лінгвістыцы на значэнне і сэнс непасрэдна вынікае з вылучэння ў моўнай дзейнасці дзвюх яе ўзаемазвязаных частак — мовы і маўлення. Мова — гэта агульная для зносін паміж людзьмі сістэма адзінак і правілы аперыравання гэтымі адзінкамі. Так, для носьбітаў беларускай мовы агульнымі семантычнымі адзінкамі з'яўляюцца марфемы, словы, словазлучэнні і сказы; правіламі аперыравання — уменне спалучаць адзінкі мовы і кадзіраваць імі тыя ці іншыя звесткі пра знешнюю рэчаіснасць. Маўленне ж уяўляе сабой канкрэтную рэалізацыю мовы кожным яе носьбітам у гукавой або пісьмовай форме. Звычайна мова характарызуецца як абстрактная, сацыяльная, упарадкаваная (унармаваная) і ўстойлівая з'ява, якая служыць сродкам зносін паміж людзьмі, а маўленне — як канкрэтная, індывідуальная, з пэўнымі адхіленнямі ад нормы і няўстойлівая з'ява, якая складае сам працэс зносін. Такім жа чынам характарызуюцца і вызначаюцца суадносныя адзінкі мовы і маўлення. Напрыклад, абстрактным моўным адзінкам — слову і сказу — адпавядаюць канкрэтныя адзінкі маўлення — словаўжыванні і выказванні, праз якія і рэалізуюцца ў кожным канкрэтным выпадку маўлення зыходныя адзінкі мовы. Аналагічным спосабам значэнню як катэгорыі зместу мовы адпавядае катэгорыя зместу маўлення — сэнс. Значэнні знамянальных моўных адзінак выяўляюцца ў маўленні праз канкрэтныя сэнсы, якія заўсёды звязаны з пэўнай сітуацыяй зносін з кантэкстам ужывання адпаведных моўных адзінак. Абстрактная моўная адзінка пры сваім ужыванні ператвараецца ў пэўную маўленчую адзінку. Самі ж значэнні моўных адзінак не абумоўлены ні канкрэтнай сітуацыяй зносін, ні кантэкстам непасрэднага ўжывання.

Значэнні цэнтральных адзінак мовы — слоў — апісваюцца, вызначаюцца і тлумачацца ў слоўніках, а сэнс словаўжыванняў, або адзінак маўлення, рэалізуецца ў вусным маўленні або ў пісьмовым тэксце, дзе значэнне канкрэтызуецца, удакладняецца, дапаўняецца тым або іншым сэнсам. Кожная новая сітуацыя ўжывання слова здольна выявіць у выкарыстаным слове новы сэнс. Так, для слова *казка* ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» выдзяляецца два значэнні: 1) апавядальны твор вуснай народнай творчасці або літаратурны твор аб выдуманых падзеях; 2) што-небудзь выдуманае, нерэальнае; байка. У вершы Янкі Купалы «Лясное возера» ёсць радок *Нудныя казкі куст з кустам шапоча*, дзе слова *казка* набывае асобны пераносны паэтычны сэнс, які адсутнічае ў слоўніку, але патэнцыяльна змяшчаецца ў значэнні дадзенага слова. У радках верша М. Багдановіча «Завіруха» *У бубны дахаў вецер б'е, // Грыміць па ім, звініць, пяе // І спеў ліецца ўсё мацней,— // Гулянку справіў пан Падвей* словы *бубны, пяе, спеў, гулянку, пан* рэалізуюць не прамое значэнне, а набываюць пераносны кантэкстуальны змест, які і выяўляецца пэўны сэнс значэнняў гэтых слоў у прыведзеным паэтычным кантэксце.

Аднак не ўсе значымыя адзінкі мовы і не ўсе віды значэнняў маюць канкрэтны сэнс. У марфемах, напрыклад, выдзяляюцца па сутнасці толькі значэнні; граматычныя катэгорыі таксама нясуць у сабе значэнні і не маюць семантыкі, падобнай сэнсу слоў. У лінгвістычнай тэрміналогіі гэта адлюстроўваецца ў наяўнасці словазлучэнняў «значэнне марфемы» і «граматычнае значэнне», тады як са словам «сэнс» гэтыя тэрміны звычайна не спалучаюцца. Марфемы маюць значэнне, але не маюць сэнсу, таму што ў чыстым выглядзе яны не ўжываюцца ў маўленні, а выкарыстоўваюцца толькі ў якасці будаўнічага матэрыялу для слоў. Граматычныя катэгорыі часу, склону, ладу, трывання, ліку, роду і інш. таксама пазбаўлены сэнсу, бо яны па сваёй прыродзе з'яўляюцца абстрактнымі абагульненымі з'явамі, характэрнымі для мноства моўных адзінак, таму і ўжываецца тэрмін «граматыка мовы» і адсутнічае тэрмін «граматыка маўлення». Сэнс маюць сказы як галоўныя камунікатыўныя і словы як асноўныя намінатыўныя адзінкі мовы, пры гэтым яны набываюць сэнс толькі ў маўленні, дзе выступаюць і канкрэтызуюцца ў выглядзе выказванняў і словаўжыванняў.

Аснову сэнсу складаюць тыя элементы зместу слоў і сказаў, якія ствараюцца ў выніку пераноснага ўжывання моўных адзінак, сімвалічнага выкарыстання іх, пры скрытым або яўным параўнанні, пры ўжыванні моўных адзінак у незвычайных кантэкстах і сітуацыях. Аднак сэнс функцыяніруе і праяўляецца толькі ў межах значэння, рэалізуе ў маўленні яго семантычныя патэнцыі, і магчымы выхад сэнсу за межы значэння прыводзіць да непаразумення субяседнікаў, якія карыстаюцца ў маўленні агульнай для іх сістэмай моўных адзінак. Індывідуальныя сэнсавыя і пачуццёвыя адценні, якія набывае моўная адзінка ў маўленні, называюцца **канататыўнай семантыкай**. Сэнс як спадарожнік рухаецца вакол значэння і высвечвае розныя яго бакі, нават, на першы погляд, несумяшчальныя. Так,

планета Венера ў розныя часы назірання яе з зямлі можа называцца або вячэрняй, або ранішняй зоркай. Антанімічныя назвы «вячэрняя зорка» і «ранішняя зорка» маюць розны сэнс і адно значэнне ў адносінах да агульнай назвы планеты Венера. Падобны падыход да значэння і сэнсу развіваецца ў логіцы і прагматыцы. Прагматыка ўзнікла на мяжы логікі і лінгвістыкі і займаецца пытаннямі выкарыстання значэнняў у моўных актах, адносінамі паміж значэннямі, лагічнымі паняццямі і знешнімі рэаліямі. Новы сэнс таго ці іншага значэння становіцца зразумелым для таго, хто яго ўспрымае, дзякуючы ведам, якія ляжаць у аснове моўнай дзейнасці людзей. Гэтыя веды ў поўным аб'ёме ніколі не рэалізуюцца ў маўленні, але садзейнічаюць узнікненню само сабой зразумелага сэнсу моўных адзінак. Нерэалізаваныя ў мове фонавыя веды называюцца прэсупазіцыяй, і менавіта да іх цягнуцца карані сэнсу, якія жывяць яго тым або іншым зместам. Напрыклад, часта на пытанне *Ці ёсць у вас запалкі?* мы адказваем *Я не куру.* Па сутнасці, у такіх выпадках адказ не адпавядае пытанню, хоць ён і зразумелы таму, хто пытае, бо наяўная прэсупазіцыя дазваляе імгненна пабудаваць лагічны ланцужок разважанняў: *Звычайна запалкі ёсць у таго, хто курыць. Чалавек, якога я пытаю пра запалкі, не курыць. Значыць, запалак у яго няма.* Прыблізна такім чынам разважае і чалавек, якога пытаюць, але ён выказвае не ўсе свае думкі, а толькі іх вывад, апошняе звяно ланцужка сваіх унутраных разважанняў.

У вусным маўленні сэнс нашых выказванняў рэалізуецца з дапамогай мноства дадатковых сродкаў: інтанацыі, тэмбру, рытму, гучнасці, мелодыкі, націску, хуткасці і г. д., а таксама жэстаў, пантамімы, рухаў цела, выразу твару і інш. У пісьмовым тэксце сэнс моўных адзінак удакладняецца, пашыраецца, паглыбляецца, ілюструецца знакамі прыпынку, лічбамі, схемамі, формуламі, малюнкамі, фатаграфіямі, рознымі спосабамі напісання літар, іх афарбоўкай, падкрэсліваннем і г. д.

У навуцы існуе і такое разуменне сэнсу, калі ён разглядаецца як цалкам глыбінная мысліцельная сутнасць, прама не звязаная з адназначнай канкрэтнай формай свайго праяўлення, а здольная рэалізоўвацца і прадстаўляцца мноствам розных вербальных (слоўных) і невербальных сродкаў. Прычым колькасць падобных сродкаў праяўлення пэўнага сэнсу з'яўляецца неабмежаванай. Пры падобным падыходзе сэнс разглядаецца як своеасаблівы спосаб вычэрпвання або высвятлення адпаведных мысліцельных катэгорый (ідэй, паняццяў, канцэпцый і інш.). Так, для высвятлення сэнсу паняцця пра беларусаў Я. Карскі напісаў шматтомнае даследаванне «Беларусы», у якім ужываюцца дзесяткі тысяч розных моўных адзінак. Але падобнае разуменне сэнсу не звязана так непасрэдна і цесна са значэннем, як папярэдні, прадстаўлены вышэй, пункт гледжання, таму ёсць больш падстаў аналізаваць і апісваць сэнс як рэалізаванае ў маўленні адпаведнае значэнне той ці іншай знамянальнай моўнай адзінкі.

*Літ.:* Звегинцев В. А. Предложение и его отношение к языку и речи. М., 1976; Колшанский Г. В. Контекстная семантика. М., 1980; Новое в зарубежной лингвистике. Вып. 10. Лингвистическая семантика. М., 1981; Плотников Б. А. Основы семасиологии. Мн., 1984; Литвин Ф. А. Многозначность слова в языке и речи. М., 1984; Новое в зарубежной лингвистике. Вып. 16. Лингвистическая прагматика. М., 1985. *Б. А. Плотнікаў.*

## СЯДНЁЎ МАСЕЙ ІЛАРЫЁНАВІЧ



Беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык, публіцыст М. І. Сяднёў нарадзіўся 1 верасня 1913 г. ў в. Мокрае Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Саматэвіцкай сямігодкі вучыўся ў Мсціслаўскім педтэхнікуме (1930—31). У 1933 г. паступіў у Мінскі вышэйшы педінстытут, які закончыць не давялося, бо ў 1936 г. на апошнім курсе быў незаконна арыштаваны і сасланы на Калыму, дзе прабыў 5 гадоў. Вялікую Айчынную вайну сустрэў у Мінску, куды быў прывезены на перагляд судовай справы. У час вайны, апынуўшыся на волі, вярнуўся да бацькоў у родную вёску, дзе працаваў на гаспадарцы. У 1943 г. выехаў у Беласток, там працаваў карэктарам у рэдакцыі газеты «Новая дарога» (1944). Некаторы час жыў у Германіі (1944—51). Быў настаўнікам беларускай гімназіі ў Міхельсдорфе. У 1951 г. пераехаў ў ЗША. Працаваў на металаапрацоўчым заводзе, выкладаў рускую мову ва універсітэце (Блумінгтан, 1960—67). З 1967 да 1983 г. працаваў на радыёстанцыі «Свабода» ў Мюнхене (узначальваў беларускую рэдакцыю). Жыве ў г. Глен-Коў пад Нью-Йоркам. Поўнасцю рэабілітаваны ў 1992 г.

Пачаў друкавацца ў 1932 г. Аўтар паэтычных зборнікаў «У акіяне ночы» (Рэгенсбург, 1946), «На край святла» (Міхельсдорф, 1947), «Спадзяванні» (Рэгенсбург, 1947), «Цень Янкі Купалы» (Ватэнштэт, 1947), «Ля ціхай брамы» (Нью-Йорк, 1956), «Патушаныя зоры» (Нью-Йорк; Мюнхен, 1975), «Ачышчэнне агнём» (Глен-Коў; Нью-Йорк, 1985), «А часу больш, чым вечнасць» (Глен-Коў; Нью-Йорк, 1989), раманаў «Раман Корзюк» (Нью-Йорк; Мюнхен, 1985), «І той дзень надыйшоў» (Глен-Коў; Нью-Йорк, 1987), зборніка выбраных твораў «Патушаныя зоры» (Мн., 1992). Сяднёў з'яўляецца таксама аўтарам нарысаў, эсэ, літаратуразнаўчых і крытычных артыкулаў, перакладаў з нямецкай, англійскай, рускай, украінскай і іншых моў на беларускую твораў Гётэ, Мёрыке, Мікеланджэла, Я. Славуціча і інш.

Мова твораў Сяднёва, з аднаго боку, адлюстроўвае ўплыў правапісных і граматычных традыцый беларускай мовы перыяду 20—30-х гадоў, з другога — вызначаецца глыбокай арыгінальнасцю. Стыль Сяднёва поўнасцю сфарміраваны, цэласны, непаўторны. За знешнімі прастатой, даступнасцю, непасрэднасцю, лёгкасцю, якія набліжаюць мову пісьменніка да фальклорных народна-песенных крыніц, хаваецца дбайная, упартая, паводле М. Сяднёва — «мазолістая» праца: *Безліч разоў я заглядваю ў сваю душу, // каб адшукаць сапраўднае слова. // Але гэта рэдка калі мне ўдаецца* («А часу больш, чым вечнасць»). У выніку аўтар дасягае высокай моўнай культуры. Лаканічная і афарыстычная мова твораў Сяднёва служыць магутным сродкам стварэння мастацкай вобразнасці, дапамагаючы пісьменніку не толькі перадаць свае думкі і пачуцці, але і закрануць душу чытача, пераканаць, захапіць яго. Творы Сяднёва вабяць і хвалююць пранікнёным лірызмам, багаццем інтанацый, чысцінёй мовы, тонкім мастацкім густам, высокай эрудыцыяй аўтара. Ён стварае цэлы паэтычны свет, у якім кожнае слова вытрымлівае дакладную праверку, яно трапнае, заўсёды да месца.

З лексічнага пункту погляду мова Сяднёва характарызуецца выключным багаццем і разнастайнасцю. Пісьменнік смела выкарыстоўвае словы розных стылёвых пластоў — дыялектныя: *зялезная, спакмець, кваліць* («Раман Корзюк»); размоўныя і жаргонныя (звычайна экспрэсіўна афарбаваныя): *лапы, шэльма, п'янчуга,*

*ухлёпацца, уліпнуць, змыцца, перціся* («І той дзень надыйшоў»). У творах Сяднёва нярэдка сустракаюцца індывідуальна-аўтарскія наватворы, адценне навізны якім надаюць нетыповыя для такіх выпадкаў суфіксы: ***маўкліня, сакавіковы*** («Ачышчэнне агнём»). Ужывае пісьменнік сінанімічныя рады: *няясны — неазначаны — недакладны, нясцерпна — датkліва* («Раман Корзюк»), *сум — журба — жаль* («І той дзень надыйшоў»); антонімы, якія складаюць антанімічныя пары: *дзівіліся і ніз і выш* («Ачышчэнне агнём»); ***жыць ці прападаць*** *разам* («Раман Корзюк»).

Сяднёў па-майстэрску валодае невычэрпнымі рэсурсамі народнай фразеалогіі і часта ўжывае ўстойлівыя спалучэнні слоў: *мазгі закруціць, лынды біць* («І той дзень надыйшоў»), *не спушчаць вачэй, на ражон лезці* («Раман Карзюк»), *як набраўшы ў рот вады, перакідвацца словам, вочы мазоліць* («Ачышчэнне агнём»); прымаўкі: *хадзіў, ды не нахадзіў, ёсць сала і да сала, ад куляшу па целяшу* («І той дзень надыйшоў»), *закілзаў, не адчэпішся, і ў цябе не бела ў роце* («Раман Корзюк»); перыфразы: *пасланец зямлі* 'карабель' («Патушаныя зоры»), *калыска мае бацькаўшчыны* 'Польшча' («Раман Корзюк»), *людзі з лесу* 'партызаны' («І той дзень надыйшоў»); эўфемізмы: *сабою ўжо не быць* 'звар'яцець' («Ачышчэнне агнём»), *праявіць сябе радыкальна* 'абурыцца' («Раман Корзюк»).

Найбольш пашыранымі мастацкімі сродкамі Масея Сяднёва з'яўляюцца азначэнне-эпітэт: *безнадзейныя ночы, сіні сон, п'яное святло, золкая вышыня* («Патушаныя зоры»), *зябкія душы, песня лёгкакрылая* («Ачышчэнне агнём»); метафара: *корак кватэры* («Патушаныя зоры»), *скарга мора, крыніцы слёз* («Ачышчэнне агнём), *залаты дакумант, голая хата* («Раман Корзюк»), *абезгалоўленая царква* («І той дзень надыйшоў»); увасабленне: *месяц прабіраецца бокам, засумавалі сады, горы паснулі, авёс прашапацеў свае паэмы* («Патушаныя зоры»); метанімія: *Ля кляштару замкнута брама: // забараняецца ўваход //* ***Яна ж дазволу і не брала*** *— //* ***размаляваны рот*** («Патушаныя зоры»), *Я прывык, што чырвоная зорка хлусіць* («І той дзень надыйшоў»); аксюмаран: *журботна-вясёлыя вочы* («Раман Корзюк»), *малы — вялікі народ* («Ачышчэнне агнём»); гіпербала: *я нават мёртвым уздыхну, на версе тупацелі й бегалі злачынна — маглі падлогу так працерці* («Патушаныя зоры»); літота: *Бог кропляю блакітнай сцёк* («Патушаныя зоры»).

Сінтаксіс твораў Сяднёва надзвычай эмацыянальны, экспрэсіўны, часам, нават у празаічных творах, рытмізаваны за кошт выкарыстання сказаў розных тыпаў — асабліва часта аднасастаўных: *Памалюся за вас* («Патушаныя зоры»), *Не турбуйся. Крыкі. Гоман. Шорах* («Раман Корзюк»); няпоўных: *Гарыць. Як падсвечаны* («І той дзень надыйшоў»), *Дрэвы губляюць увосень лісты, а я — словы* («А часу больш, чым вечнасць»); сказаў, ускладненых некаторымі сінтаксічнымі канструкцыямі — аднароднымі членамі: *За дзецьмі яны адгуляліся, засвяціліся, пахарашэлі* («А часу больш, чым вечнасць»); адасобленымі членамі: *Бог Зеўс царовай жонкай Ледай, у лебедзя ўвайшоўшы, авалодаў* («Ачышчэнне агнём»). Большую экспрэсіўнасць надаюць творам шматлікія параўнальныя канструкцыі *(Апошні дзень, нібы тапелец, кануў* — «Патушаныя зоры»; *Праём у дзвярох чарнеўся глыбокай пасцяй* — «Раман Корзюк») і прыёмы паэтычнага сінтаксісу, такія, напрыклад, як паўтор: *Два Мокрых — чутка абляцела — Масеевага сына арыштавалі. Масееў сын у турме. Масеева сына няма* («І той дзень надыйшоў»); з гэтай жа мэтай выкарыстоўвае аўтар і інверсію: *І вобразы мае красою новай нейкай на вуснах тваіх трапяткіх зноў ажывалі* («Ачышчэнне агнём»).

У артыкулах па праблемах развіцця беларускай мовы Сяднёў адстойвае ідэю яе нацыянальнай самабытнасці і самастойнасці, выступае супраць спроб набліжаць родную мову да іншых, змагаецца за яе чысціню, вучыць маладых літаратараў патрабавальнаму і ў той жа час творчаму стаўленню да напісанага. Ён лічыць майстроў мастацкага слова творцамі і пераўтваральнікамі мовы, якія могуць у значнай ступені ўплываць на яе развіццё, унармаванне, стабілізацыю. Адносіны грамадства да сваёй мовы залежаць ад стаўлення да яе пісьменнікаў, а таму на плечы апошніх кладзецца высокая адказнасць за прыгажосць, дасканаласць мовы іх твораў. На думку Масея Сяднёва, майстры слова не павінны, не маюць права засмечваць мову дыялектызмамі, жарганізмамі, запазычаннямі, іншамоўнымі сінтаксічнымі канструкцыямі і інш. Асаблівы клопат у пісьменніка выклікаюць словы іншамоўнага паходжання: «Наша мова дастаткова багатая для таго, каб развівацца самастойна». Масей Сяднёў асуджае таксама спробы ўскладніць мову мастацкай творчасці (а разам з гэтым і беларускую мову ў цэлым) неапраўданымі неалагізмамі: «У мудрагельстве няма і не можа быць паэзіі». Пісьменнік як знаўца мовы вядомы на Бацькаўшчыне і за яе межамі, а творчасць яго спрыяе ўзбагачэнню і ўдасканаленню роднага слова.

*Літ.:* Сачанка С. Б. Пісьменнік і мова: Творчы пошук Масея Сяднёва // ЛіМ. 1992. 10 крас.; Яе ж. Паэтычны сінтаксіс (паводле твораў Масея Сяднёва) // Тамсама. 1993. 13 жн.; Яе ж. Арфаграфічныя асаблівасці твораў Масея Сяднёва // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1993. № 4. *С. Б. Сачанка.*

## СЯМ'Я МОЎ

Сям'я моў — сукупнасць генетычна роднасных моў. Сёння на Зямлі налічваецца больш за 20 моўных сем'яў: індаеўрапейская, фіна-угорская, уральская, цюркская, іберыйска-каўказская, семіта-хаміцкая, малайска-палінезійская і іншыя. Некаторыя з іх даследаваны даволі падрабязна, пра іншыя звесткі больш агульныя.

Паняцце «сям'я моў» сфарміравалася ў выніку адкрыцця і развіцця параўнальна-гістарычнага метаду і, у прыватнасці, ідэй Р. Раска, Ф. Бопа, А. Шлейхера і іншых (гл. **Параўнальна-гістарычнае мовазнаўства**). Паводле сучасных уяўленняў, кожная сям'я моў — гэта прадукт распаду нейкай старажытнай моўнай супольнасці. Так, індаеўрапейская сям'я моў узнікла ў выніку распаду праіндаеўрапейскай мовы. Адсюль шматлікія і разнастайныя факты падабенства ў лексіцы, граматыцы, фанетыцы членаў сям'і моў, сярод іх могуць быць і мёртвыя мовы.

Сям'я моў — *найважнейшая* класіфікацыйная адзінка ў генеалагічнай класіфікацыі моў. Сам тэрмін «сям'я» тлумачыць факты падабенства моў іх супольным паходжаннем і дапускае розную ступень іх роднасных адносін. У сям'і моў адны мовы — больш блізкія «сваякі» (славянская група: беларуская, руская, украінская), іншыя — больш далёкія (беларуская і літоўская). У адпаведнасці з гэтым сям'я моў распадаецца на больш цесныя аб'яднанні — групы, ці галіны. Акрамя славянскай групы, індаеўрапейская сям'я моў уключае балтыйскую, германскую, раманскую, кельцкую, грэчаскую, албанскую, армянскую, анаталійскую, тахарскую, іранскую, індыйскую групы. Ступень роднасці моў у складзе сям'і адваротна прапарцыянальная часу, што прайшоў з моманту распаду канкрэтнай моўнай супольнасці. Ступень роднасці ўстанаўліваецца на падставе камунікатыўнай практыкі носьбітаў моў (інтуітыўна) і з дапамогай спецыяльных лінгвістычных крытэрыяў (лексічных, граматычных і г. д.).

Праблемы класіфікацыйнага падзелу моў на сем'і, моўных сем'яў на групы цесна звязаны з агульнатэарэтычнай праблемай паходжання мовы. Паводле монацэнтрычнай тэорыі, мова ўзнікла недзе ў адным месцы на Зямлі і потым распаўсюдзілася па ўсім свеце. Агульнасць паходжання пацвярджаюць факты блізкасці паміж асобнымі (рознымі) моўнымі сем'ямі. Паводле поліцэнтрычнай тэорыі, больш ці менш адначасова мова ўзнікла ў розных старажытных соцы-

умах (і адпаведна — пунктах зямнога шара). У такім выпадку паміж асобнымі сем'ямі моў можа не быць ніякіх агульных структурных рыс.

На практыцы ў шэрагу сем'яў моў часткова супадаюць сістэмы, у прыватнасці, каранёвага фонду. Гэта дае падставы меркаваць пра больш буйныя, у параўнанні з сем'ямі, сукупнасці моў, заснаваныя на роднасных адносінах. Рускі вучоны У. М. Ілліч-Світыч распрацоўваў тэорыю настратычнай сям'і, у якую ўключыў сем'і індаеўрапейскую, уральскую, алтайскую, semіта-хаміцкую і некаторыя іншыя. Каб пазбегнуць блытаніны з-за рознага змястоўнага аб'ёму тэрміна «сям'я моў», ён увёў тэрмін «макрасям'я» (настратычная макрасям'я). У такім выпадку часткі сям'і — групы моў (як славянская, балтыйская, іранская і іншыя) — можна называць мікрасем'ямі. Сукупнасці моў па роднаснай прыкмеце даюць лагічную класіфікацыйную паслядоўнасць: мікрасям'я — сям'я — макрасям'я. Пытанне пра вылучэнне іншых, акрамя настратычнай, макрасем'яў моў застаецца на сённяшні дзень адкрытым; генеалагічная класіфікацыя моў удасканальваецца. Гл. таксама **Генеалагічная класіфікацыя моў.**

*Літ.:* Реформатский А. А. Введение в языковедение. 4 изд. М., 1967; Лоя Я. В. История лингвистических учений. М., 1968; Языки и диалекты мира: Проспект и словник. М., 1982; Иллич-Свитыч В. М. Опыт сравнения ностратических языков. Сравнительный словарь. [Кн. 1—3]. М., 1971, 1976, 1984.

*Б. Ю. Норман.*

# СЯРЭДНЕБЕЛАРУСКІЯ ГАВОРКІ

Сярэднебеларускія гаворкі — шырокі пас мясцовых гаворак на сумежжы паўднёва-заходняга і паўночна-ўсходняга дыялектаў беларускай мовы (гл. **Паўднёва-заходні дыялект, Паўночна-ўсходні дыялект**). Гэтыя гаворкі не з'яўляюцца па паходжанні дыялектам. Яны ўтвараюць асобную міждыялектную групу, якая паўстала ў выніку натуральнага ўзаемадзеяння мясцовых гаворак і іх асаблівасцей аднаго і другога дыялектаў. Таму гэтыя гаворкі называюць іншы раз «змешанымі», або «пераходнымі».

Але сярэднебеларуская група гаворак — гэта не толькі пас змешанага тэрытарыяльнага размяшчэння мясцовых гаворак рознай дыялектнай прыналежнасці, а таксама суіснаванне ў гаворках рознадыялектных асаблівасцей. Узаемадзеянне розных па дыялектнай прыналежнасці гаворак і іх асаблівасцей прывяло да складвання ў асобных выпадках некаторых спецыфічных сярэднебеларускіх рэгіянальных моўных рыс гібрыднага або гіперычнага характару. Гэта канчатак *-о* ў назоўным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў ніякага роду, якія маюць значэнне 'малое дзіця ў жывёл і птушак' (*цялё, птушанё;* параўнайце паўночна-ўсходняе дыялектнае — *цялёнак, ціплёнак* і паўднёва-заходняе — *цяля́, птушаня́*), націскны канчатак *-ец'*, *-іц'(-ыц')* з фінальным мяккім зычным ц' і ненаціскны канчатак *-е*, *-а* ў 3-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу абвеснага ладу дзеясловаў як 1-га, так і 2-га спражэння *(ідз'е́ц', н'ас'е́ц', крычы́ц', грым'і́ц'*, але *ходз'а, но́с'а, гул'а́іе, ре́жа;* параўнайце паўночна-ўсходняе дыялектнае *ідз'е́ц', гул'а́јіц', хо́дз'іц', крычыц'* і паўднёва-заходняе *ідз'е́, н'ас'е́, гул'а́је, ре́жа,* але *крычы́ц', грым'і́ц', хо́дз'іц', но́сіц'*). Формы прошлага часу жаночага роду адзіночнага ліку з націскам на аснове ў дзеясловах 1-га спражэння з націскам на асабовым канчатку *(н'е́сла, в'е́зла, п'е́кла, гре́'бла)*, канчатак творнага склону множнага ліку назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў з цвёрдым зычным *м (дама́мы, з малады́мы, з іі́мы)* і інш. Сярэднебеларускай рэгіянальнай рысай з'яўляецца таксама поўнае недысімілятыўнае (моцнае) аканне і яканне (галосныя *о, е, а* не пад націскам заўсёды супадаюць у гуку *а*). Як вядома, для гаворак паўднёва-заходняга дыялекту характэрна няпоўнае недысімілятыўнае аканне і яканне, а паўночна-ўсходнія гаворкі адрозніваюцца дысімілятыўным аканнем і яканнем.

Гэтыя і некаторыя іншыя рысы якраз і вызначаюць сярэднебеларускія гаворкі як асобную групу ў структурных і тэрытарыяльных адносінах.

*Літ.:* Бузук П. А. Спроба лінгвістычнае геаграфіі Беларусі. Ч. 1. Фанетыка і марфалогія. Вып. 1. Гаворкі Цэнтральнай і Усходняй Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Велікарасіі ў першай чвэрці XX в. Мн., 1928; Воук-Левановіч Я. В. Важнейшыя рысы гаворкі вёскі Татаркавічы і гаворак ваколічных вёсак // Зап. аддз. гуманіт. навук Ін-та беларускай культуры. Мн., 1929. Кн. 2. Працы класа філалогіі. Т. 1; Мацкевіч Ю. Ф. Да характарыстыкі моўных асаблівасцей сярэднебеларускіх гаворак // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1961. Вып. 8; Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1968—69; Вайтовіч Н. Т. Узаемадзеянне рознадыялектных з'яў у мікраструктуры сярэднебеларускай гаворкі // Бел. лінгвістыка. Мн., 1972. Вып. 1.

*А. А. Крывіцкі.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Неруш ранішні — роднае слова,*
*Мне шукаць цябе, покуль гляджу,*
*Пад зялёным крылом верасовак,*
*Пад крысом і спякоты й дажджу.*
*Слова, што як нарог для ратая,*
*Як для ластаўкі — стромы вільчак,*
*Ад якога на небе світае,*
*Ад якога яснее ў вачах.*

Рыгор Барадулін



**Т** — *дваццатая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Т («тверда»), утворанай на аснове грэка-візантыйскай устаўнай Т («тау»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* т, ц' (т'): атава, путь, твердый. *Мела таксама лічбавае значэнне «трыста». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумны глухі цвёрды змычны пярэднеязычны зычны гук* т (тавар, трава), *у спалучэнні са звонкім зычным* — д (футбол — *«фудбол»*). *У становішчы перад галоснымі* е, ё, і, ю, я, *мяккім* в *і* ь *у адпаведнасці з вымаўленнем замяняецца літарай* ц (брат — брацік, чарот — у чароце, чатыры — чацвёрты). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную формы. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ТБШ, ТБ), як умоўнае скарачэнне слоў «таварыш»* (т. *Пятроў*), *«том»* (т. *12*), *«тона» (18* т), *«тэлефон»* (т. *20-33-18*). *Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дзевятнаццаты» (група «Т»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (квадрат № 18 т).*

*А. М. Булыка.*

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (ТБМ) ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Добраахвотная грамадская арганізацыя. Утворана 27 чэрвеня 1989 г. ў Мінску. Арганізатары-заснавальнікі — Саюз пісьменнікаў Беларусі, Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа і Інстытут літаратуразнаўства імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі, Беларускі Фонд культуры, Таварыства «Радзіма», Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Дзейнасцю ТБМ кіруе Рэспубліканская Рада і Цэнтральная Рэвізійная камісія. Старшыня таварыства — Н. Гілевіч.

ТБМ — масавая арганізацыя, якая мае на мэце пашырэнне ўжытку беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця, садзейнічанне яе развіццю, захаванню чысціні і самабытнасці. Статут ТБМ наступным чынам вызначае ролю і месца мовы ў духоўным жыцці народа: «Нацыянальная мова — неацэнны духоўны скарб, які жывой повяззю яднае пакаленні і вякамі назапашваецца і адлюстроўваецца ў свядомасці народа. Страта нацыянальнай мовы ідзе поруч з заняпадам нацыянальнай культуры і вядзе за сабою паступовае знікненне народа як самабытнай этнакультурнай супольнасці... Выхаванне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да бацькоўскага дару і матчынай святыні, як да незаменнай і навек падараванай жыццём каштоўнасці з'яўляецца найвышэйшай мэтай стварэння і сэнсам існавання Таварыства беларускай мовы».

СТАТУТ
ТАВАРЫСТВА
БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ
ІМЯ
ФРАНЦІШКА
СКАРЫНЫ



**Статут Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (вокладка).**

Рэспубліканская Рада ТБМ зацвердзіла «Асноўныя напрамкі дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны», якія вызначаюць змест працы 9 пастаянных камісій Таварыства: адукацыйнай, тэрміналагічнай, тапанімічнай, па зрокавым і гукавым афармленні жыццёвага асяроддзя, па ўдасканаленні правапісу, па культуры мовы і моўных скарбах, выдавецкай, па мове ў сродках масавай інфармацыі, па мове ў канфесіях. Дзеля ажыццяўлення праграм дзейнасці камісій ТБМ арганізавала і правяло шэраг рэспубліканскіх канферэнцый: «Шляхі станаўлення нацыянальнай беларускай школы» (1990), «Інтэлігенцыя і нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі» (1991), «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Беларусі» (1992), «Шляхі ўдасканалення правапісу беларускай літаратурнай мовы» (1992).

Пры непасрэдным удзеле сяброў Таварыства ў складзе Вярхоўнага Савета Беларусі і арганізацыйных структур ТБМ былі прыняты Закон аб мовах, Закон аб культуры, Закон аб адукацыі, Закон аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, абвешчана Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, якія ствараюць прававую аснову для паспяховага выканання задач нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі.

З сакавіка 1990 года ТБМ выдае

свой перыядычны друкаваны орган — бюлетэнь «Наша слова» (гл. **«Наша слова»**). Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ выдае газету «Сумежжа», Лідская гарадская — «Весткі з Ліды» (да 1992 года «Народная трыбуна»), Баранавіцкая гарадская — «Баранавіцкае слова». Намаганнямі Маладзечанскай арганізацыі Таварыства выходзіць бюлетэнь «Родны край», Навагрудскай — «Навагрудскі кур'ер». Таварыства выпускае на заказных асновах кнігі з гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі. У 1990—93 гг. выйшлі «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» В. Ластоўскага, «Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем» З. Санько, «Маленькі маскоўска-беларускі (Крывіцкі) слоўнічак» Я. Станкевіча (3 выд.), «Што трэба ведаць кожнаму беларусу» В. Ластоўскага, зборнік вершаў Н. Гілевіча «Незалежнасць», «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» М. Шчакаціхіна, «Пачаткі роднае мовы» В. Раманцэвіч, распачата серыя «Беларуская навуковая тэрміналогія» і інш.

ТБМ мае эмблему, якая адлюстравана на сяброўскіх значках і на пасведчаннях Таварыства. Рэспубліканская Рада ТБМ выпускае і пашырае праз сетку кіёскаў мастацкія вырабы і сувеніры нацыянальна-культурнай тэматыкі.

*Я. А. Цумарэў.*

## ТАЛСТОЙ МІКІТА ІЛЫЧ

Рускі філолаг-славіст М. І. Талстой нарадзіўся 15 красавіка 1923 г. ў г. Вршац (Югаславія). Доктар філалагічных навук (1972), прафесар (1973). Акадэмік Расійскай АН (1987). Член Аўстрыйскай АН, Македонскай акадэміі навук і мастацтваў. Намеснік Старшыні Міжнароднага (1988), Старшыня Расійскага камітэтаў славістаў (1986), віцэ-прэзідэнт Міжнароднага камітэта славістаў (1988). У 1950 г. скончыў Маскоўскі універсітэт. Працаваў у Інстытуце міжнародных адносін (1952—54). З 1954 г. навуковы супрацоўнік Інстытута славяназнаўства АН СССР (з 1968 г. Інстытут славяназнаўства і балканістыкі Расійскай АН), аднначасова з 1968 г. выкладчык Маскоўскага універсітэта.

М. І. Талстой аўтар больш як 200 навуковых прац у галіне гісторыі славянскіх літаратурных моў, гістарычнай лексікалогіі славянскіх моў, славянскай дыялекталогіі, тапанімікі, этналінгвістыкі і этнаграфіі. У сваіх працах шырока выкарыстоўвае беларускі моўны і этнаграфічны матэрыял. У 1962—65, 1974—81 гг. ён узначальваў экспедыцыі па вывучэнні гаворак і традыцыйнай духоўнай культуры Беларускага Палесся. Ён рэдактар і сааўтар зборнікаў «Лексіка Палесся: Матэрыялы для палескага дыялектнага слоўніка» і «Палессе: Лінгвістыка. Археалогія. Тапаніміка» (абодва 1968). Адзін з вынікаў работы Палескай лінгвістычнай экспедыцыі 1962—65 гг.— манаграфія М. І. Талстога «Славянская геаграфічная тэрміналогія: Семасіялагічныя эцюды» (1969), прысвечаная параўнальнаму даследаванню славянскіх геаграфічных тэрмінаў. Матэрыял для яе сабраны ў палявых умовах (у тым ліку і на Беларускім Палессі), а потым супастаўлены з рукапіснымі і друкаванымі крыніцамі па геаграфічнай тэрміналогіі славянскіх моў. Прааналізаваўшы вялікі фактычны матэрыял, М. І. Талстой прыйшоў да высновы, што палеская геаграфічная тэрміналогія блізкая да праславянскай не толькі складам лексем, а і семантыкай тэрмінаў, што ён вытлумачвае блізкасцю да славянскай прарадзімы і некаторай архаічнасцю палескіх дыялектаў. На аснове атрыманых даных у гэтай і ў іншых працах М. І. Талстой пацвярджае думку некаторых археолагаў, этнографаў і лінгвістаў, якія лічаць Прыпяцкае Палессе зонай першапачатковага пашырэння славянства на больш вялікія тэрыторыі.

Манаграфія М. І. Талстога «Гісторыя і структура славянскіх літаратурных моў» (1988) прысвечана пытанням функцыяніравання старажытнаславянскай літаратурнай мовы, яе структуры, лакальным разнавіднасцям, эвалюцыі, яе ролі ў развіцці асобных славянскіх літаратурных моў, у тым ліку і беларускай.

*Літ.:* Библиографический указатель по славянскому и общему языкознанию: Проф. Н. И. Толстой. Самарканд, 1983.

*М. Н. Крыўко.*

## ТАНК МАКСІМ

Народны паэт Беларусі (1968) Максім Танк (сапраўднае прозвішча Скурко Яўген Іванавіч) нарадзіўся 4(17) верасня 1912 года ў в. Пількаўшчына Мядзельскага раёна ў сялянскай сям'і. Лаўрэат дзяржаўных і літаратурных прэмій, акадэмік АН Беларусі (1972), ганаровы грамадзянін Мінска (1987).

Скончыў польскую сямігодку, вучыўся ў беларускай і рускай гімназіях. Удзельнік рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Браў удзел у выданні падпольнай і легальнай перыёдыкі ў Вільні («Пралом», «Часопіс для ўсіх», «Крыгалом», «Poprostu», «Наша воля», «Беларускі летапіс», «Калоссе»). Першы верш «Заштрайкавалі гіганты-каміны», падпісаны псеўданімам Максім Танк, надрукаваў у газеце «Беларускае жыццё» (Львоў, 1932). За рэвалюцыйную дзейнасць не раз арыштоўваўся ўладамі буржуазнай Польшчы. З дапамогай КПЗБ выйшлі кнігі паэта



«На этапах» (1936, канфіскавана), «Журавінавы цвет» (Вільня, 1937), «Пад мачтай» (1938), паэма «Нарач» (1937, канфіскавана).

Пасля вызвалення Заходняй Беларусі Максім Танк працаваў у абласной газеце «Вілейская праўда» (1939—40). У 1940—41 гг. жыў і займаўся літаратурнай працай у Беластоку.

У Айчынную вайну працаваў у франтавым друку («За Савецкую Беларусь», «Раздавім фашысцкую гадзіну»). У 1945—48 гг. літаратурны рэдактар часопіса «Вожык», у 1948—67 гг. галоўны рэдактар часопіса «Полымя», у 1967—90 гг. старшыня праўлення СП Беларусі.

І слоўнікам, і граматыкай, і мастацкімі сродкамі паэзія Максіма Танка, асабліва «віленскага перыяду», моцна звязаная з Пількаўшчынай, Нарачаншчынай. Лексіка і фразеалогія дакладна адлюстроўваюць ландшафт, раслінны і жывёльны свет гэтых мясцін, сялянскі, рыбацкі і паляўнічы занятак, вясковы і хутарскі побыт. У полі зроку пісьменніка (і чытача) — лес, балота з дрэвамі, травой, ягаднікамі і зверынай. Азёры з тонямі, затокамі, пераменлівымі хвалямі, кагаркамі. І над усім гэтым — неба, паднебныя далі, дзе паэт і ягоныя героі назіраюць розныя квадры Месяца, зоркі, зару (заранку), вясёлку... Штодзённае сялянскае жыццё ляжыць у аснове параўнанняў, метафар, іншых тропаў. Вось, да прыкладу, пачатак «Песні кулікоў»: *Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай, // Цішыня ў хаціне згорбленай, старой, // Ды гарыць памалу ноч дайгой лучынай, // Сцелючы сасновым дымам і смалой... // Часам вецер дрэвы, зачапіўшы гужам, // Дойга іх пілуе месяца сярпом // І снуе на плоце белы снежны кужаль // З дойгай снежнай песняй за сляпым акном. // Дымна ў печы дро-*

*вы і карчы палаюць. // Зайцамі кладуцца цені на сцяне. // Пеніцца сярдзіта бульба, закіпае // Снежнаю завеяй ў чорным сагане.*

Свежасць і самабытнасць паэтычнага голасу Максіма Танка абумоўлены арыгінальнай тэматыкай твораў, нестандартнасцю яе мастацкай распрацоўкі, грунтоўнай літаратурнай і моўнай дасведчанасцю. «Ідзе паэт сваімі шляхамі-этапамі, выскубае народныя словы і эпітэты, як валошкі з жыта, нібы жартуючы, сыпе метафарамі і вобразамі, якім, здаецца, цесна робіцца ў рамках астрожнай тэматыкі. «Паміж ночы хмар» падаюць ягоныя песні «залацістымі іскрамі», сабірае іх працоўная Беларусь і пляце вянок славы маладому паэту» (Ш ы р м а Р. Прадмова да зб. М. Танка «На этапах». Вільня, 1936. С. 1).

Высокая ацэнка не ўскружыла галавы. Максім Танк сур'ёзна працуе над сваімі творамі, шмат чытае, у тым ліку беларускіх савецкіх пісьменнікаў, актыўна папаўняе свой слоўны запас. У «Лістках календара» ёсць запіс за 4 лютага 1937 года: «У музейнай бібліятэцы напазычаў розных слоўнікаў і зараз цэлымі днямі і начамі чытаю. Некаторыя словы, якія да гэтага часу не ўжываў, выпісваю. Некалі прыдадуцца. Аж страх узяў — з якім абмежаваным і бедным слоўным багажом выправіўся я на Парнас» (Т а н к М. Лісткі календара. Мн., 1970. С. 124). Зацікаўлены і сталы зварот да літаратур народаў свету спрыяў разгортванню магутнага таленту паэта, пашырэнню яго творчага дыяпазону, выпрацоўцы індывідуальнага стылю. Пашырэнне тэматыкі твораў не магло не адбіцца на сістэме моўна-вобразных сродкаў. Калі для мастацкага паказу родных мясцін і герояў — сваіх землякоў — паэту ставала традыцыйна «вясковых», у тым ліку рэгіянальных, слоў то пры ўвядзенні ў паэзію далёкіх і блізкіх замежных краін, гарадоў, натуральна, спатрэбіліся адпаведныя рэаліі, назвы. І Максім Танк іх знаходзіць, звяртаючыся да геаграфіі, гісторыі, мастацкай літаратуры і фальклору народаў, пра якія піша: *арык, атара, валах, Гіндукуш, Кардыльеры, Меконг, Тэмза, Фларыда, Янцзы.* Выкарыстанне геаграфічных назваў, уласных асабовых імён, а таксама агульных «пазычаных» назоўнікаў служыць мастацка-вобразнай канкрэтызацыі ў творах шырокай інтэрнацыянальнай тэматыкі. Напрыклад, у вершы «Хата гураля» ўжыты экзатызмы — словы з гаворкі горцаў, што жывуць у Татрах: *газда* (селянін), *гальны* (горны), *гураль* (горац), *лімба* (кедр). Часам словы іншых моў падаюцца паралельна з беларускімі, як, напрыклад, у вершы «Фінская лазня»: *яніс-заяц, лісіца-кету, сусі-воўк, карху-медаед* (мядзведзь), *вядзьмарка мойта-ака.* У якасці мастацкіх сродкаў Максім Танк часта выкарыстоўвае антычныя і міфалагічныя імёны і назвы: *Алімп, Афрадыта, Гамер, Адам, Ева, Ікар, Праметэй* і інш.

Як і ў кожнага паэта, у Максіма Танка ёсць словы, якія ён асабліва часта ўжывае: *арба* (ворыва), *аруд, асвер, бруіць, брэдзь* (цвет вярбы, лазы), *верасавішча, гасцінец* (шлях), *загар* (асветленае сонцам месца, прыпёк), *кáгарка* (чайка), *матка* (маці), *набой, насевак, паднебны, пакос, палоў* (лоўля рыбы), *пастýр* (галоўны пастух), *перлы, польны, пошар* (сухі корм жывёле), *прывен* (сенцы), *рыштох, скáба, старана, стары* (бацька ці ўвогуле стары чалавек; жанчына адпаведна — *старая), сцябачка* (мянташка), *хмарыць* (у выразе *хмарыць сон,* абазначае 'хіліць'), *цесля, цікáючыся* (спасцярожлівa), *шаламя́* (гарышча хаты), *шарахаўкі* (бомы) і іншыя. А словы-спадабанцы *адгалосы* (выяўлена ў форме множнага ліку), *бліскавіца, зара, расахаты, расстайны, тонь, трыснік, цяглы* ўспрымаюцца як аўтарскія паэтызмы. Адны з гэтых слоў літаратурныя, другія — на шляху ў слоўнік агульнанароднай мовы.

Вельмі «просіцца» ў літаратурную мову прыметнік *краплісты* 'з кроплямі, звычайна буйнымі', які ёсць і ў Янкі Купалы. Адзначаецца ён дыялектнымі слоўнікамі на вялікім беларускім прасцягу: у Пінскім, Драгічынскім, Навагрудскім раёнах. Максім Танк ужывае яго з назоўнікамі *дождж, раса, пот: Каля пушчы, каля броду // Нас дагнала непагода — // Дождж пасыпаўся* ***краплісты*** *і густы* («У навальніцу»).

Не менш празрыстае будовай, выразнае і зразумелае слова *непамыслота: Ходзіць бабка лесам-гаем, // У хусціначку збірае: // ......... Жменьку ядлаўцовых ягад — // Для лячэбных кропель — брагі // Ад дакучлівай ламоты, // Рознай там* ***непамыслоты...*** («Бабка»).

Значэнне слова можна акрэсліць як 'непамыснасць'. У беларускай мове існуе шэраг назоўнікаў аналагічнай структуры: *адзінота, журбота, самота, слаўнота, сумота* і інш.

Чакаюць шырокага літаратурнага попыту вядомыя гаворкам і ўжытыя Максімам Танкам словы *ладзьбаваць* (выбіраць, браць мёд у пчол), *ладзьбаванне: Звон пчаліны стаіць. // Сёння дзень ладзьбавання. // Над калгаснаю пасекай з самага рання // Распагодзіўся неба прастор сіняваты. // Каля домікаў і лежакоў храпаватых // Затрымаліся мы* («Пчаліны звон»).

Звычайна, даследуючы мову пісьменніка, выяўляюць яго наватворы. У маладога Максіма Танка, мова якога адметная перш за ўсё багатай метафарычнасцю, словамі і сінтаксічнымі канструкцыямі народных гаворак, амаль няма аўтарскіх неалагізмаў. У зборніку «Журавінавы цвет» ёсць адзінкавыя дзеясловы *журавініцца, крушыніцца, крушыніць,* якія можна аднесці да індывідуальных. У зборах твораў іх ужо няма. Так, у вершы «Ой, калышацца вецер» радок *Журавініцца сэрца, яе чуючы голас* мае новую рэдакцыю: *Ажно сэрца іграе, яе чуючы голас.*

Не захапляецца паэт словатворчасцю і ў далейшым. За дзесяцігоддзі працы набярэцца дзесятак-другі слоў аўтарскіх, такіх, як *абліскавічаны, агромлены, арлаваць, асамотнены, вадарой, дабравей, зразорыць, небасяжны, умаіць* і інш. *Першай прачнулася вярба — // Руплівая маладзіца, // Пачуўшы, як верхаводка // Казыча ногі. // Верхаводка, //* ***Абліскавічаная*** *бліскавіцай. //* ***Агромленая*** *громам крутарогім* («Вясной»).

У вершы «Была калісьці...» гаворыцца , як «галовы адміністрацыйныя» штогод перахрышчваюць колішнюю вуліцу Зарэчную: *І так яна зрабілася Арктычнаю, // А потым стала вуліцай Белвузаў, // Акакія Цытатадыхавічнага, // А сёння — Аблрэмбазы прамсаюзаў.*

Наватвор трапна схоплівае вобраз нейкага чарговага дзеяча, падкрэслівае яго архаічнасць, аджыласць, фізічную і грамадскую нямогласць. Дзеяч існаваў, «дыхаў» цытатамі. Экспрэсія павялічваецца і з таго, што «дыхавічны» — гэта ж такі, у каго дыхавіца, задышка. Мо і памёр ад гэтай цытатнай, дагматычнай нястраўнасці.

Арганічны элемент паэтычнай мовы Максіма Танка — фразеалагізмы, прыказкі, прымаўкі, радкі з народных песень.

*Кажуць: // «Цішэй едзеш — далей будзеш». // Мо праверыць? // «А за кукіш круп не купіш». // А я думаў? // «Праўда люба, хоць і груба». // Ці заўсёды? // «Папрацуеш — смак пачуеш». // Мо і праўда? // Кажуць: «Смерць вянчае славай». // Пачакаю?*

Напаўняючыся нацыянальнай канкрэтыкай, вершы Максіма Танка не толькі не трацяць, але павышаюць эстэтычную, філасофскую значнасць. Паэт паказвае непарыўную сувязь агульналюдскога і свайго роднага, падкрэслівае спрадвечнасць беларускага дрэва жыцця. Пры гэтым вельмі натуральна, нязмушана паяднoўваюцца моўныя сродкі штодзённа-побытавага і кніжнага ўжытку, як, напрыклад, у гэтых радках з новага цыкла (Полымя. 1992. № 9): *Таму не верце, // Што там з нейкай // Месапатамскай гліны // Усемагутны // Вылепіў Адама. // Ён вылепіў яго, // Калі разводдзем веснім, // Гразнучы, // Аж па калені, // Ішоў з сяўнёй // Па Мядзельшчыне нашай. // Тут і сягоння // Сляды ягоныя відаць. // Іх толькі ўсё // Азёрамі завуць.*

Творы Максіма Танка адлюстроўваюць рэгіянальныя асаблівасці не толькі лексікі, але і націску, словаўтварэння, марфалогіі, сінтаксісу.

Прыметнікі *блізкі, вузкі, муражны, мяккі, цяжкі* і некаторыя іншыя ўжываюцца з націскам на апошнім складзе, часта сустракаецца варыянт **серабра́ны.** *Але ралля, як пух, мякка́я. // Барозны струнамі ляглі* («Мінскі трактар»). У прыслоўях *вы́сака, глы́бака, да́ўна, шы́рака* націск на першым складзе. *Сонца вы́сака на небе. // Не дастанеш качаргой...* («***Ад дажджоў стары гасцінец...»). Маюць адметнасць націску і асобныя назоўнікі: *каню́х* (конюх), *рука́вы* (множны лік назоўніка *рукаў*), *смяццё.* Назоўнік *гара* ў формах множнага ліку мае націск на корані: *горы — гораў* (гор), *горам, горамі, горах. Ён хутка падымецца, пойдзе ізноў // Па* ***горах,*** *далінах, па нетрах лясоў, // Па ўсёй партызанскай сваёй старане!* («Сільніцкі»).

Некаторыя назоўнікі, у адрозненне ад кадыфікаванай нормы, маюць суфікс *-ін-: асініна, астравіна, кропліна, крупіна, палазіна, скібіна, стрэльбіна.*

Адносныя прыметнікі, утвораныя ад назваў селішчаў на *-шчына, -ічы,* не захоўваюць гэтых фармантаў: *гатайскі* (в. Гатавічы), *пількайскі* (в. Пількаўшчына).— *Дзядзька, можа, ты перавязеш // Мяне на бераг* ***гатайскі,*** *// А то ісці абходам // Далёка і праз лес* («Нарач»); *Нават і сёння // Хаціна старэнька тая, // На* ***пількайскія*** *валуны абапершыся, // Век дажывае...* («Пра сябе»).

Назоўнік *Нёман* (часта выкарыстоўваецца як сімвал роднай зямлі, Беларусі) ва ўскосных склонах страчвае галосны *а: Нёмна, Нёмну, Нёмнам, Нёмне. Гэта ён // Уздоўж Віллі і* ***Нёмна*** *// І па ўсіх шляхах і скрыжаваннях // Будаваў капліцы і крыжы...* («Люцыян Таполя»); *Агнём за Дняпром і* ***Нёмнам*** *// Абняты прасторы палёў* («Байцу беларускага фронту»).

Тыя ці іншыя адметнасці, звязаныя з уплывам роднай гаворкі, іншых дыялектаў, а таксама рускай і польскай моў, назіраюцца ў межах розных часцін мовы.

Шырыня вытокаў мовы, багацце і разнастайнасць крыніц, з якіх яна сілкуецца, непазбежна вядзе да таго, што ў ёй суіснуюць моўныя адзінкі з рознай функцыянальна-стылістычнай характарыстыкай. Адны словы, формы, сінтаксічныя канструкцыі ўжываюцца ва ўсіх стылях, другія — толькі ў некаторых. Ёсць моўныя сродкі, якія адлюстроўваюць ранейшыя нормы, і наадварот — такія, што «сігналізуюць» пра наспяванне змен у нормах. Наяўнасць варыянтаў, як і сінонімаў, канкрэтныя ўмовы і задачы зносін ставяць праблему выбару найбольш прыдатных сродкаў выказвання. Для разумення і замацавання літаратурных нормаў творы Максіма Танка даюць аўтарытэтныя матэрыял.

*Цягнік* ці *поезд?* У літаратурнай мове ёсць абодва словы. Але ў апошнія дзесяцігоддзі пісьменнікі, аўтары навуковых прац, падручнікаў аддаюць перавагу слову *цягнік.* Што ж падказвае практыка Максіма Танка? Ён ад ранніх вершаў і праз усю творчасць паслядоўна ўжывае слова *цягнік* (хоць мове яго землякоў яно ў 30-я гады не было ўласціва): *На захад ідуць* ***цягнікі*** *— // Лён, // Жыта, // Сасна і бяроза... // Гляджу і гляджу з-пад рукі, // Як наша юнацтва вывозяць* («На пероне»).

*Смык* ці *смычок?* Другі варыянт настойліва прабіваецца з рускай мовы. У Танкавых творах абсалютна пераважае слова *смык: Прыйдзем яшчэ, вёска, твае песняры, // Не з торбамі песень жабрачых,— //* ***Смыком*** *серабраным на струнах зары // Табе заіграем іначай* («Нарач»).

*Лілея* ці *лілія?* Максім Танк аддае перавагу першаму варыянту: *Дык спіце ж, мірным сном заснуўшы, // Лілеі, птушкі і дачка... // А я яшчэ праверыць мушу // Лязо і ў песні, і ў штыка* («***Спакойна спіце...»).

*Кошык малін* ці *кошык маліны* У пісьмовай і вуснай мове назоўнік *маліны* (кустовая расліна, яе ягады) нярэдка памылкова ўжываюць у формах адзіночнага ліку: *якая буйная сёлета маліна* (замест: *якія буйныя сёлета маліны*), *кошык маліны* (замест: *кошык малін*), *пакаштуй маёй маліны* (замест: *пакаштуй маіх малін*). У творах Максіма Танка чытаем: *«Найсаладзейшыя ў лесе —* ***маліны,*** *// А найгарчэйшыя — дні на чужыне* («***Самыя раннія — веснія воды...»); *На густых кустах* ***малін*** *// Буйны росы запаліў. // Ну і жаўрук!* («Жаўрук»).

Творы Максіма Танка даюць каштоўны матэрыял для вызначэння больш натуральнай формы ўласных назваў, імён, удасканалення правілаў іх ужывання. На Мядзельшчыне, Вілейшчыне, Маладзечаншчыне раку і горад на ёй завуць здаўна *Вялля, Вялейка.* У помніках беларускага пісьменства сустракаем: *по Вельи оуниз, оуверхъ* (XIV ст.); *на реце на Вельи* (XV—XVI ст.). З развіццём у беларускай мове падаўжэння зычных і якання сталі вымаўляць *Вяльля, Вяльлі, Вяльлёй.* У даваенных вершах Максіма Танка ўжываецца слова *Вяльля* з націскам на канцавым галосным у розных склонах. Прыводзім радкі з верша «Моладзі» першага выдання (у новай рэдакцыі страфа апушчана): *Шырака наша дарога лягла, // Межамі зрыта зямля. // Хутка вясеньнім разьлівам зару // вынясе Нёман,* ***Вяльля.*** У пазнейшых выданнях у назве ракі замест літары *я* пішацца *і* (гэтага патрабуюць слоўнікі), але націск захаваўся на канчатку: *І ў гэты час, калі вясна над намі // І над* ***Віллёй*** *каштаны расцвілі, // Я не паверу, што ёсць недзе камень // З тваёй апошняй датай на зямлі»* («Пятрасу Цвірку»).

У поўнай згодзе з беларускай фанетыкай падаецца прозвішча *Вусаў* у вершы «Над чорнай Ганчай» (ужыта 5 разоў). ***Вусаў*** *загад аддае: — Бараніцца // І непахісна стаяць на граніцы!* Такія ўжыванні — важкая падстава, каб у беларускім правапісе ўзаконіць прозвішчы з прыстаўным *в: Вус, Вусік, Вусікаў, Вусаў, Ворнік, Ворцюх, Ворчык.*

Ёсць некаторыя асаблівасці і ў сінтаксісе танкаўскіх твораў. Захоўваецца традыцыйнае кіраванне дзеясловаў *забыцца, паслухаць, чака́ць, шукаць* — пры іх залежныя словы нярэдка стаяць у родным склоне. (Гэтыя дзеясловы ўжываюцца і з формамі вінавальнага склону.) *Хочуць, каб* ***песні забыліся*** *матчынай! // Пад акупанцкім схіліліся ботам* («Тры песні»); *А калі на горных на грамадах // Пена хваль,—* ***паслухаю іх грому*** *//* ***І напеву*** *шумных вадападаў, // Што спадаюць з скал арліных, стромых* («Снег»); *Я* ***чакаў вясны*** *ў палях радзімы, // На пагорках нёманскіх крутых* («Я чакаў вясны»); *Той, хто* ***дружбы шукае,*** *— // Ў нас знойдзе яе. // Той, хто* ***песні шукае,*** *— // Ў нас знойдзе яе* («Пражскі дзённік»).

Максім Танк шырока ўжывае формы творнага склону са значэннем часу і месца, як гэта характэрна для яго роднай гаворкі. *Яшчэ дзе-недзе на вяршынях дрэў //* ***Пагодай*** *ліст бярозавы гарэў* («Журавінавы цвет»); *Ад стогну, як* ***навальніцай,*** *// Гнуцца лясы, бары...* («Вастрыце зброю»); [*Заложнікі*] ***морам Эгейскім*** *плывуць* («На Эгейскім моры»); *Куды нясецца* ***шырокім светам*** *// Завея гэта — вяселле гэта?* («У чыстым полі»). Ёсць і назвы вершаў такой формы: *«Імглой», «Лістападам», «Руёй», «Світаннем».*

Як вядома, пад уплывам публіцыстычнага, афіцыйна-справавога стыляў канструкцыі з прыназоўнікам *па* прыкметна пашыраюцца ў мастацкім і гутарковым стылях беларускай мовы. Пры гэтым выцясняюцца, пераходзяць у пасіўны запас традыцыйныя спалучэнні, выразы. Максім Танк не адхіляе такіх сінтаксічных сродкаў, а зберагае і дарэчы выкарыстоўвае. *...Я не раю, сябры, // Забывацца* ***чытаць*** *// З* ***крыгаходу,*** *вясновага //* ***Гулу і звону.*** *//* ***З шуму*** *сосен спрадвечных, //* ***З блакіту*** *нябёс. //* ***З ліній,*** *што прабягаюць па нашых далонях, //* ***З лёту*** *птушак вандроўных // Свой лёс* («***Нат калі адыдуць...»).

А вось якія адпаведнікі ўзяў паэт з народнай мовы для спалучэнняў *па памылцы, па чарзе, па густу. Яму* ***праз памылку*** *тады // Замест барады збрыў чупрыну...* («У раённай цырульні»); *І звонка* ***на змену*** *ў куратніку пеўні крычаць* («Каліноўскі»); ***Не пад густ*** *ты ім зазвоніш* («Парады»).

Трэба падкрэсліць: у словазлучэннях з прыназоўнікам *па* (выказваюцца аб'ектныя, прасторавыя і інш. адносіны) залежныя словы, як правіла, стаяць у форме меснага склону: *І мо ад тугі* ***па родным краю,*** *//* ***Па май-***

***стэрству дaўнім,*** *на якое // Налажыў сваё Сямашка вета, // Пасівей ён...* («Люцыян Таполя»); *Вядомы антраполаг //* ***Па знойдзеным*** *у саркафазе* ***чэрапе*** *// Стварыў партрэт цара...* («З хронікі»).

Прыходзім на раду да Максіма Танка, да яго твораў... Які прыназоўнік (нарматыўны) ужываць пры абазначэнні прадмета як мэты руху ці перамяшчэння? Адказ адназначны: прыназоўнік *па. Пасылае маці думы // У свет* **па сына.**— // *Прылятаюць тыя думы // Бурай сіняй* («Пасылае маці думы»); *Хачу я новы шлях знайсці // У Індыю* ***па шчасце,*** *// І нат падрыхтаваў ужо // Вандроўніцкія снасці* («Сон над Нёмнам»).

Паэт паслядоўна ўжывае спалучэнне **падобны да** (працяг традыцыі Янкі Купалы, Якуба Коласа). *Думаў, што жыццё* ***падобна да*** *скарбонкі, // Да мядзведзіцы глінянай, у якую // Дзеці кідаюць мядзяныя капейкі, // Каб на іх купіць дарунак імянінны* («***Думаў, што жыццё...»).

У творах Максіма Танка знайшлі адлюстраванне шмат якія спецыфічныя рысы беларускай мовы. І гэта адбылося ў вялікай ступені дзякуючы таму, што паэт зазнаў плённае ўздзеянне магутнага слова Янкі Купалы і Якуба Коласа, з якімі яму пашчасціла працаваць і сябраваць. Народныя песняры высока цанілі талент арыгінальнага паэта. Якуб Колас у вершы «Максіму Танку» пісаў пра яго: «...Паэзія светлага ранку // І нашай зямлі калыханка // Квітнее ў яго мурагу».

*Тв.:* Зб. тв. Т. 1—4. Мн., 1966—67; Т. 1—6. Мн., 1978—81.

*Літ.:* Бугаёў Д. Я. Паэзія Максіма Танка. Мн., 1964; Рагойша В. П. Паэтыка Максіма Танка. Мн., 1968; Калеснік У. Максім Танк; Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1981; Верабей А. Максім Танк і польская літаратура. Мн., 1984; Арочка М. М. Максім Танк; Жыццё ў паэзіі. Мн., 1984; Лойка А. У Максіма Танка ёсць усё... // ЛіМ. 1992. 11 вер.; Каўрус А. «Самыя звонкія — родныя гукі» // Полымя. 1992. № 9. *А. А. Каўрус.*

## ТАПАНІМІКА

Тапаніміка (ад. грэч. tópos месца і ónyma імя, назва) — раздзел анамастыкі, які вывучае тапонімы (уласныя імёны геаграфічных аб'ектаў), іх паходжанне, гістарычныя змены, заканамернасці развіцця і функцыяніравання, тэрытарыяльнае пашырэнне і спосабы словаўтварэння. Тапаніміка ўключае некалькі падраздзелаў: айканіміку (гл. **Айканіміка**), гідраніміку (гл. **Гідраніміка**), мікратапаніміку (гл. **Мікратапаніміка**), араніміку, урбананіміку, хараніміку (гл. **Анамастыка**).

Вучоныя зацікавіліся беларускай тапаніміяй у 1-й палове 19 ст. З. Даленга-Хадакоўскі, А. К. Кіркор, І. В. Турчыновіч, П. М. Шпілеўскі тлумачылі сэнс асобных беларускіх тапонімаў. У канцы 19 ст. А. А. Качубінскі, І. Я. Спрогіс, Ю. Ю. Трусман, А. Л. Пагодзін вывучалі тапанімію (у першую чаргу гідранімію) у сувязі з праблемай старажытнага рассялення славян і балтаў. Новы этап у даследаванні тапаніміі, у тым ліку і беларускай, звязаны з працамі К. Бугі. На Беларусі актывізацыя тапанімічнай навукі прыпадае на 1960-я гады (Я. М. Адамовіч, Э. К. Бірыла, М. Я. Грынблат, В. А. Жучкевіч, В. П. Лемцюгова, П. П. Шуба, І. Я. Яшкін і інш.). Да 1990-х гадоў найбольш грунтоўна даследаваны: айканімія Віцебскай, Гомельскай і Мінскай абласцей (Л. М. Грыгор'ева, Э. К. Бірыла, А. Ф. Рогалеў, В. П. Лемцюгова), гідранімія басейна Заходняй Дзвіны і Верхняга Падняпроўя (А. М. Катонава, У. М. Тапароў, А. М. Трубачоў), мікратапанімія 12 раёнаў Брэсцкай, Гомельскай і Мінскай абласцей (Я. М. Адамовіч, В. М. Емельяновіч, Г. А. Іванова, Г. М. Прышчэпчык), урбананімія гарадоў Беларусі (Г. М. Мезенка).

На тэрыторыі, якую займаюць беларусы, выяўлены тапанімічныя назвы самых розных гістарычных перыядаў: даславянскага (рэкі *Днепр, Дзвіна, Арэса*), агульнаўсходнеславянскага (рака *Гарынь*, гарады *Тураў, Брагін, Крычаў*), уласнабеларускага (вёскі *Ніўкі, Купля, Цагельня*). Народ ніколі не называў сваё паселішча, раку ці іншы тапанімічны аб'ект выпадковым словам. Тапонімы ўзнікаюць у канкрэтных гістарычных умовах і адлюстроўваюць розныя бакі жыцця і дзейнасці чалавека (сувязь з прыродай, побыт, характар сельскай гаспадаркі, промыслаў, вытворчасці і інш.). Так, беларусам на працягу некалькіх стагоддзяў даводзілася займацца падсечна-агнявым земляробствам, што наклала адбітак і на тапанімію. У ёй знайшлі адлюстраванне назвы старажытных спосабаў распрацоўкі лясной зямлі: *Карчаваха, Расцяробы, Церабеж, Чарцяж, Чэрці* (ад *чарціць* 'падсякаць дрэвы, каб засушыць'), *Гар, Пал, Жар, Выжар* (месцы, дзе згарэў лес), *Дзерць, Доры, Выдранка, Падзер* (ад *дзерць, дор, выдранка, падзер* 'дзялянка, дзе выцераблены лес), *Чысць Чысці* (дзялянка пад ворыва, ачышчаная ад лесу). У прамой сувязі са старой сістэмай земляробства знаходзяцца беларускія тапонімы *Ляда, Максімава Ляда, Ляды, Старыя Ляды, Пасека, Бярозаўская Пасека, Пасекі, Міцькаўскія Пасекі* (ад *ляда, пасека* 'ўчастак зямлі на месцы выцерабленага лесу'). Раскіданыя сярод лясных і балотных абшараў культурныя дзялянкі мелі выгляд невялікіх астраўкоў і палянак. Па гэтай прыкмеце многія з іх атрымалі свае назвы: *Доўгі Востраў, Сухі Астравок, Хвойная Паляна.* Праз пэўны час лясныя землі збядняліся, даводзілася пакідаць старую дзялянку («старыну») і заводзіць новую («нóвіну, навінý»). Гэты этап у земляробстве таксама адлюстраваны ў тапаніміі. У розных кутках Беларусі можна сустрэць назвы *Новіна, Навіна, Новіны, Навінкі, Старына, Старыны, Старынкі.* Выцерабленыя дзялянкі лесу паступова ператварыліся ў землі «жылыя» ці «аселыя». З прычыны гэтага з'явіліся назвы: *Белы Двор, Дварэц, Маёнтак, Замак, Фальварак, Вялікае Сяло, Новае Сяло, Старое Сяло, Сяльцо, Селішча, Падвор'е, Гаспода, Навасёлкі, Навасады, Дворышча, Прысёлкі, Прысады, Воля, Волька, Слабада, Стан, Станавішча* і інш. *Сяльцо* пэўны час абазначала паселішча землеўладальніка і селяніна. Спецыфічную для Беларусі форму землекарыстання адлюстроўваюць тапонімы *Засценак, Засценкі, Наддаткі, Наддаўкі, Прыдаткі, Задняе Поле, Зады, Рэз, Рэзы, Рэзкі.* Іх узнікненне звязана з увядзеннем індывідуальнай (валочнай) сістэмы землекарыстання (рэформа «Устава на валокі», 16 ст.), калі сялянскія сем'і атрымалі асноўныя надзелы (валокі) і дадатковыя ўчасткі за межамі («за сцяной») асноўнага надзелу. Пры засяленні гэтых участкаў агульныя назвы пераасэнсаваліся ва ўласныя. Беларускія тапонімы *Грань, Грані, Паль, Рубеж* ад назваў старажытных межавых знакаў; *Дзесяціны, Локаць, Маргі, Шнур* — ад назваў мер зямлі; *Атрубак, Вобруб, Вотруб* ад зарубак на дрэвах, якімі пазначаліся лясныя ўчасткі. У тапаніміі захаваліся і найменні старажытных промыслаў: *Перавессе, Перавесішча* (месца, дзе развешваліся *перавесы* — сеткі для лоўлі птушак), *Ваўкайня* (яма-лавушка для ваўкоў), *Слопішча* (сіло, пастка на дробнага звера). З промыслам мёду дзікіх пчол звязаны тапонімы *Борць, Борці.* У 16—17 ст. пасёлкі прамыславікоў і рамеснікаў звычайна размяшчаліся вакол гаспадарскага двара, маёнтка ці фальварка. Па назве пасёлка можна было вызначыць, хто ў іх жыве: *Баброўнікі* (лавілі баброў), *Бортнікі* (вялі пчаліную гаспадарку), *Канюхі* (даглядалі коней), *Мыслійцы* (палявалі на дзікіх звяроў і птушак), *Сакольнікі* (лавілі сакалоў), *Калеснікі* (выраблялі калёсы), *Рашэтнікі* (рашоты), *Бондары* (бочкі), *Берднікі* (бёрды), *Рымары* (раменную вупраж), *Хамутнікі* (хамуты), *Токары* (ткалі палотны, пасцілкі і інш.). Шматлікія тапонімы засведчылі назвы майстэрань і прадпрыемстваў, якія з'яўляліся прыналежнасцю гаспадарскіх двароў: *Бровар* (вінакурны завод), *Плітніца* (майстэрня па вырабе пліт), *Тартак* (лесапільны завод), *Паперня* (папяровая фабрыка), *Смалярня, Смольня* (смалакурны завод), *Цагельня* (цагельны завод) і інш.

Лексічны склад беларускай тапаніміі шырока адлюстроўвае назвы прыродных і штучных вадаёмаў *(Старыя*

*Рэчкі, Князь-Возера, Азярцо, Глыбокі Ручэй, Крыніцы, Копань, Палякова Сажалка),* балот *(Сасновае Балота, Алёс* — балота, заросшае альхой, *Гала* — голае балота без расліннасці, *Дрыгва, Зыбун, Жоўтае Тапіла),* узвышшаў, пагоркаў *(Каменная Гара, Сінія Горы, Бугры, Вярхі, Верацяя* — узвышша сярод балота, *Гаравіна* — узвышша ў лесе, *Града, Грыва* — прадаўгаватае ўзвышша), мясцін з роўнай паверхняй *(Роўнядзь, Роўнае, Плоскае),* нізкіх мясцін *(Ніз, Нізок, Нізавыя),* назвы глебы паводле прыродных якасцей *(Пяскі, Пясчанка, Пескаватка; Пяшчаніца, Гляі, Глінае, Камяніца, Каменка),* расліннасці *(Чысты Бор, Бярозавы Гай, Белавежская Пушча, Беразнякі, Лазавыя, Вераб'е, Высокая Ліпа, Крапіўна, Хвашчанка),* жывёл, птушак *(Арлінае Гняздо, Бабровыя Хаткі, Барсуковы Норы)* і інш.

Лексічную аснову тапонімаў утвараюць не толькі агульныя словы, а і ўласныя імёны. Найчасцей гэта кананізаваныя асабовыя імёны ў іх размоўна-бытавой форме, прозвішчы, мянушкі людзей: *Васілеўшчына, Васількова, Васькаўшчына, Васюкоўшчына* ад *Васіль, Васілёк, Васілька, Васька, Васюк); Грышкаўшчына, Грыневічы, Грынькова, Грыцавічы, Грыцковічы, Грыцукі* (ад *Грышка, Грынь, Грыц, Грыцко, Грыцук*); *Міхайлава, Міхалова, Міхайлёўшчына, Міхалковічы, Міхнічы, Міхневічы, Міханавічы* (ад *Міхайла, Міхал, Міхаль, Міхалка, Міхно, Міхан*). Шмат тапонімаў (пераважна айконімаў) утворана ад старажытнаславянскіх двухкаранёвых імён у поўнай або скарочанай форме: *Баляславава, Казіміраўка, Міраслаўка, Славаміраўка, Уладзіміраўка.*

Айконімы і мікратапонімы часта ўтвараюцца ад назваў рэк: *Блужа, Волма, Гайна, Лань, Заклеўе* (за р. *Клева*), *Пціч, Таліца, Заспорня* (за р. *Спорня*), *Павуссе* (на р. *Уса*), *Шчарка.* Ёсць выпадкі ўтварэння айконімаў ад айконімаў (в. *Гразавок* ад в. *Грозава,* в. *Новая Свірыдаўка* ад в. *Свірыдаўка*), гідронімаў ад гідронімаў і айконімаў (р. *Лошыца* ад р. *Лоша,* р. *Сліўка* ад р. *Сліва,* р. *Нежліўка* ад воз. *Нежліва,* р. *Навасёлка* ад в. *Навасёлка,* вадасх. *Сялец* ад в. *Сялец*), мікратапонімаў ад айконімаў, гідронімаў і мікратапонімаў (лес *Апецкія Горы* ад в. *Апечкі, Побалаўскі лес* ад в. *Побалава,* поле *Паддайнаршчына* ад в. *Дайнаршчына,* сенажаць *Зубравае* ад аднайменнага балота і інш.).

Асноўным словаўтваральным сродкам у беларускай тапаніміі, як і тапаніміі іншых славянскіх моў, служаць суфіксы, злітыя з канчаткам — паказчыкам граматычнага роду або ліку *(-оў, -ка, -оўка, -шчына, -ічы).* Называць іх у такім выглядзе суфіксамі не зусім дакладна, але агульнапрынята. Самымі ўжывальнымі суфіксамі ва ўсёй славянскай тапаніміі з'яўляюцца *-оў (-аў), -ова (-ава), -ін (-ын), -іна (-ына).* У старажытнасці яны служылі сродкам выражэння прыналежнасці і ў гэтай функцыі аказаліся прыдатнымі для тапаніміі феадальнага перыяду, калі ўзнікала неабходнасць паказаць, каму належыць зямля або паселішча. Тапонімы ў афармленні гэтых суфіксаў узыходзяць да 10—12 ст.: г. Барысаў (11 ст.), летапісныя сёлы Кіеўскай Русі 10 ст. (Прадславіна, Рагнедзіна). Досыць папулярным у 10—12 ст. быў і другі прыналежны суфікс *-ь,* які пасля 12 ст. страціў прадуктыўнасць і адмёр. На тэрыторыі Беларусі захаваліся толькі адзінкавыя тапанімічныя назвы *Заслаўе* (старажытны *Изяславль), Мсціслаў (Мстиславль), Браслаў (Браславль).* Назвы на *-слаў (-славль)* паходзяць ад княжацкіх імён, большасць якіх прыпадае на 10—12 ст., таму па тапонімах можна вызначыць прыкладны «ўзрост» населенага пункта. Вельмі старажытны ў беларускай тапаніміі і суфікс *-ск: Менск, Пінск, Бабруйск, Глуск, Шацк.* Утвораныя з яго дапамогай назвы найчасцей сустракаюцца ў раёнах паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной. З суфіксаў, якія ўтвараюць тапонімы ў форме назоўнікаў, найбольш старажытныя *-ец* і *-іца: Кутавец, Лошыца, Асінавец, Баравец, Студзянец, Быстрыца, Святліца, Хваёвіца.* Тапонімы з гэтымі суфіксамі сканцэнтраваны на землях найбольш старажытнага славянскага засялення. Іх шмат на Беларусі, на Украіне, у Расіі (пераважна ў паўночна-заходніх раёнах), але найбольшая шчыльнасць іх прыпадае на Балгарыю, Сербію, Харватыю, Славенію. Абодва суфіксы асабліва папулярныя ў гідраніміі. Больш шырокую тапанімічную спецыялізацыю мае старажытны славянскі суфікс *-ішча,* які абазначае месца, дзе што-небудзь знаходзілася: *Азярышча, Гарадзішча, Печышча, Марковішча* і пад. Тапонімы з ім ёсць на ўсіх славянскіх землях, асабліва паўднёвых. На Беларусі вельмі характэрныя суфіксы, што напачатку абазначалі не месца, а жыхароў. Найбольш тыповыя з іх *-ічы, -овічы, -авічы (Бабічы, Васілевічы, Глебкавічы, Ждановічы); -аўцы, -оўцы, -анцы, -інцы (Адамаўцы, Баркоўцы, Дзярчанцы, Амлынцы); -аны (-яны), -ане (-яне) (Белічаны, Кутляны, Даўжане, Угляне); -ята (-яты) (Куцянята, Макаранята, Філіпіната, Гарняты, Сіманяты); -онкі (-ёнкі) (Асташонкі, Сідаронкі, Каваленкі).* Суфікс *-ічы* ў эпоху родаплемянных абшчын выражаў патранімічнасць (далучаўся да асновы імя продка па бацькаўскай лініі), а ў раннефеадальны перыяд яшчэ і прыналежнасць *(Княжычы* — сяляне, якія належалі князю). Часам у якасці асновы выкарыстоўваліся ўласныя назвы геаграфічнага аб'екта: в. *Балічы* на рацэ *Балія,* в. *Танежычы* на рацэ *Тонеж,* в. *Дубічы* каля возера *Дуба.* Відавочна патранімічны характар носяць суфіксы *-онкі* і *-ата.* Тапонімы на *-оўцы, -анцы* ўзыходзяць да калектыўнай назвы жыхароў паводле іх паходжання *(Кулікоўцы* — высяленцы з в. *Кулікі, Задваранцы* — з в. *Задвор'е, Бараўлянцы* — з в. *Баравое*). У некаторых выпадках суфікс *-оўцы* выконвае прыналежную функцыю *(Папоўцы* — сяляне, якія належалі папу), а суфікс *-аны* знаходзіцца ў сувязі з літоўскім тапанімічным тыпам *-епаі.* Да больш позніх утварэнняў адносяцца тапонімы на *-аўка (-еўка), -шчына (-аўшчына), -іха,* якія ўпершыню з'яўляюцца ў беларускіх пісьмовых крыніцах 16 ст. Усім ім уласціва прыналежная функцыя *(Бераснёўка* — сенажаць *Берасня, Лойчыха* — зямля *Лойкі, Янкаўшчына* — зямля, якая засталася ў спадчыну ад *Янкі).* Пры дапамозе суфікса *-оўка* ўтворана мноства тапонімаў ад назваў прыродна-геаграфічных аб'ектаў *(Бярозаўка, Мохаўка, Хвашчоўка, Нізоўка),* сярод якіх высокі працэнт гідронімаў. У кожнага суфікса свая геаграфія. Тапонімы на *-ічы* — агульнаславянскі тып назваў, ахоплівае ўсходнюю, цэнтральную і паўднёвую частку Еўропы. На ўсходнеславянскай тэрыторыі першае месца па ступені іх канцэнтрацыі займае Беларусь і суседнія землі (Украінскае Палессе і заходнія раёны Расіі). Назваў на *-аўцы, -інцы* на Беларусі вельмі мала. Мяжа паміж зонай *-ічы* і *-аўцы, -інцы* праходзіць прыкладна па лініі Кіеў — Жытомір — Роўна — Львоў. Досыць працяглы арэал утвараюць тапонімы на *-аўка:* у яго ўваходзяць усходне- і заходнеславянскія землі з найвышэйшай канцэнтрацыяй на поўдні Украіны і Расіі. Тып вельмі характэрны для Беларусі, асабліва для ўсходніх яе раёнаў, часты ў Польшчы, Чэхіі і Славакіі. Арэал тапонімаў на *-шчына* (у заходніх раёнах выступае ў форме *-шчызна*) меншы, але таксама распаўсюджваецца на ўсходне- і заходнеславянскія землі (беларускія, украінскія, рускія і польскія). Такім чынам, на агульнаславянскім фоне беларуская тапанімія, з аднаго боку, мае свой непаўторны набор суфіксаў, а з другога боку, шмат агульнага з тапаніміямі іншых славянскіх краін.

Значна радзей, чым суфіксы, у тапаніміі Беларусі выкарыстоўваюцца прэфіксы (прыстаўкі). Найчасцей яны выступаюць у спалучэнні з суфіксам: *Забалоцце, Залессе, Заручэўе, Засвір, Занарач, Падгор'е, Паддуб'е, Падсасонне, Падарэссе, Падланне, Парэчча, Улессе, Уручча, Узбор'е, Узбярэжжа, Узнацк, Наднёман.* Гэты тып даносіць у сваім складзе старажытныя прэфіксальныя формы, якія даўно страцілі прадуктыўнасць. Многія беларускія тапонімы ўтвораны шляхам складання дзвюх асноў: *Навагрудак, Навадворы, Наваселле, Фаніпаль.*

Вывучэнне тапонімаў карысна для самых розных галін навукі. Па іх мо-

жна аднавіць старажытную мову на пэўнай тэрыторыі і акрэсліць межы яе распаўсюджання. Тапонімы часта дапамагаюць вучоным высветліць пытанні засялення і этнагенезу асобных славянскіх народаў, акрэсліць тэрыторыю гістарычнага распаўсюджання славян. Тапонімы з'яўляюцца бясцэннай крыніцай для гісторыі мовы, даносячы да нас шматлікія словы, формы і гукі, якія даўно ўжо выйшлі з ужытку, для вывучэння народнай творчасці, побыту, вераванняў, раскрываюць шэраг гістарычных загадак. Асаблівую каштоўнасць маюць геаграфічныя назвы для гістарычнай дыялекталогіі, паколькі пісьменства вельмі скупа адлюстроўвала дыялектныя рысы ў старажытныя перыяды.

Пры Акадэміі навук Беларусі створана Рэспубліканская тапанімічная камісія, асноўныя задачы якой — адраджэнне, захаванне і ўпарадкаванне беларускай тапаніміі. Камісія выпрацоўвае прынцыпы вяртання гістарычных геаграфічных назваў, удзельнічае ў выпрацоўцы найменняў для новых геаграфічных аб'ектаў, аказвае практычную і метадычную дапамогу па ўсіх пытаннях тапанімікі. Дзейнасць камісіі асвятляецца ў зборніку «Беларуская анамастыка» (гл. **«Беларуская анамастыка»**).

*Літ.:* Жучкевич В. А. Общая топонимика. Мн., 1968; Пытанні беларускай тапанімікі. Мн., 1970; Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974. *В. П. Лемцюгова.*

## ТАРАШКЕВІЧ БРАНІСЛАЎ АДАМАВІЧ



Вядомы беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст, літаратуразнавец, мовазнавец і перакладчык Б. А. Тарашкевіч нарадзіўся 20 студзеня 1892 г. ў засценку Мацюлішкі (цяпер Літва). Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Петраградскага універсітэта (1916), працаваў у ім прыват-дацэнтам грэчаскай і лацінскай моў. З 1918 г. загадваў культурна-асветным аддзелам Пецярбургскага аддзялення Беларускага нацыянальнага камісарыята. У 1919 г. выкладаў беларускую і грэчаскую мовы ў Мінскім педінстытуце, у 1920 г.— загадваў беларускім сектарам дэпартамента асветы так званай Сярэдняй Літвы, у 1921—22 г. працаваў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі і быў адным з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. У 1922 г. выбраны паслом (дэпутатам) сейма Польшчы, узначаліў у ім Беларускі пасольскі клуб. За абарону правоў беларускага насельніцтва і палітычную дзейнасць у студзені 1927 г. арыштаваны і асуджаны на 12 гадоў турэмнага зняволення. У 1930 г. з мэтай дыскрэдытацыі яго выпусцілі на волю, але праз год зноў арыштавалі і ў лістападзе 1932 г. асудзілі на 8 гадоў катаржнай турмы. У верасні 1933 г. быў абменены на савецкага палітвязня і жыў у Маскве, працаваў у Міжнародным аграрным інстытуце загадчыкам аддзела Польшчы і Прыбалтыкі. У маі 1937 г. арыштаваны і па беспадстаўным абвінавачанні ў шпіёнскай дзейнасці на карысць Польшчы 29 лістапада 1938 г. расстраляны.

Беларускім мовазнаўствам Б. А. Тарашкевіч займаўся на працягу ўсяго свайго жыцця. Яшчэ студэнтам 3-га курса Пецярбургскага універсітэта ён апублікаваў у часопісе «Раніца» (1914, № 1) артыкул «Не пакідайце сваёй мовы», у якім заклікаў суайчыннікаў шанаваць родную мову, таму што яна з'яўляецца душой народа, запісваць мясцовую лексіку і розныя віды вуснай народнай творчасці — казкі, легенды, песні, прыказкі, загадкі.

У 1913 г. па прапанове Я. Купалы Б. А. Тарашкевіч пачаў працаваць над беларускай граматыкай, і ў 1918 г. ў Вільні яна ўбачыла свет. Гэтая праца была высока ацэнена спецыялістамі, некалькі разоў перавыдавалася і адыграла выключна вялікую ролю ў нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы. Менавіта як аўтар «Беларускай граматыкі для школ» Б. А. Тарашкевіч у 1928 г. быў абраны правадзейным членам АН БССР (гл. **«Беларуская граматыка для школ» Б. А. Тарашкевіча).**

Б. А. Тарашкевіч займаўся і іншымі лінгвістычнымі даследаваннямі. Так, у 1923 г. ім завершаны і здадзены ў друк «Сінтаксіс беларускай мовы», які, на жаль, па нейкіх прычынах не выйшаў, прычым рукапіс яго да гэтага часу не знойдзены. У 1933 г. Б. А. Тарашкевіч пісаў з турмы да пракурора ў Вільню, што ўжо доўгі час працуе над гістарычнай граматыкай беларускай мовы. Магчыма, праца была закончана, аднак яе лёс пакуль невядомы. Тое ж можна сказаць і пра доктарскую дысертацыю Б. А. Тарашкевіча «Стыль і фанетыка Лаўрэнцьеўскага летапісу», назва якой вядома з матэрыялаў аб судовым працэсе над Беларускай сялянска-работніцкай грамадой.

Б. А. Тарашкевіч пераклаў на беларускую мову два сусветна вядомыя паэтычныя творы — «Іліяду» Гамера і «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча. Пераклад «Іліяды» ён пачаў у час працы ў Петраградскім універсітэце, а закончыў у 1927 г. ў адной з самых суровых турмаў Польшчы — на Вронках. Месцазнаходжанне рукапісу да гэтага часу невядома. У перыядычным друку апублікаваны толькі дзве перакладзеныя песні «Іліяды» — першая (1922) і дваццаць другая (1935) з прадмовай перакладчыка.

Паэма А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» была перакладзена ў турэмных засценках у 1931—32 гг. Рукапіс перакладу захаваўся і быў выдадзены ў 1981 г. ў Мінску і ў 1984 г. ў Польшчы. Гэты пераклад атрымаў высокую ацэнку беларускіх і польскіх спецыялістаў. Цікавымі з'яўляюцца яго моўныя асаблівасці. Пры выбары беларускіх перакладных эквівалентаў да польскага арыгінала Б. А. Тарашкевіч свядома арыентаваўся на гутарковую мову і паэтычную вусную народную творчасць. Менавіта гэтым абумоўлена шырокае выкарыстанне форм інфінітываў з ненаціскным суфіксам *-ці (запытаці, ратаваці, схаваці, замкнуці, жыці, вырабляці, маляваці, уздыхаці, клікаці, разлучаці, чакаці)*, памяншальна-ласкальных форм *(вочкі, губкі, малюсенькі, невялічкі, чарненькія, заўтрачка, ціхусенька, лягенечка)*, прыслоўяў і часціц з узмацняльнымі суфіксальнымі элементамі *(тамака, тутака, цяперака, ёсцека)*. Відаць, не без уплыву паэтычных фальклорных твораў перакладчык для захавання рытму і рыфмаў часта змяняў у словах месца націску *(з вазá, бітвá, сквíцаю, на ярмáрках, звычáю, зыркія, блізкóга, здабы́ла, адклікну́ўся, не звару́хнецца)*, ужываў кароткія і сцягнутыя формы прыметнікаў і дзеепрыметнікаў у ролі азначэнняў *(за вернута жыццё, вяліка бяседа, галоўку пахілену, задуму глыбоку, сталы драўляны, кальчугі вялізны)* і іншыя скарачэнні слоў, прычым не толькі вядомыя ў народнай мове тыпу *нат* 'нават', *мо* 'можа', *трэ* 'трэба', *ё* 'ёсць', *шчэ* 'яшчэ', але і індывідуальна-аўтарскія, утвораныя спосабам пропуску ў канцы, пачатку ці сярэдзіне слова некаторых складовых гукаў, напрыклад: *прост*, 'проста', *ка* 'кажа', *це* 'цябе', *весь* 'увесь', *накшай* 'інакшай', *каламажка* 'каламажка', *вайводай* 'ваяводай' і інш. Відаць, патрэбамі захавання рытму вершаванага радка выклікана і ўжыванне зваротных дзеяслоўных форм з постфіксам *-сь*: *вярталісь, спынялась, адважусь, успёршысь, сварылісь, спрачалісь, зачыніўшысь, прыбліжалась.*

У мове перакладу адлюстраваліся

многія асаблівасці беларускіх паўднёва-заходніх гаворак: формы 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга і простага будучага часу дзеясловаў 2-га спражэння з ненаціскнымі канчаткамі *-е, -а: баве, уваходзе, любе, павяліча, бача, круце, змене, павера;* формы інфінітыва і прошлага часу дзеясловаў незакончанага трывання з суфіксам *-іва- (-ыва-)* замест суфікса *-ва-*, а формы цяперашняга і простага будучага часу з тэматычным галосным *-у-* замест гэтага суфікса: *пералічываць, адкладываць, адцягіваць, разбурываць, закусываў, раздумываў, развеіваў,* але *паказуюць, задзержуюць, пакручуюць, паблiскуюць;* формы назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў давальным склоне множнага ліку з канчаткам *-ом, (-ём)*, а ў месным склоне множнага ліку з канчаткам *-ох (-ёх): паном, гасцём; у лясох, у краёх, у палёх;* дзеепрыслоўі закончанага трывання на *-шы* ў ролі выказніка замест дзеясловаў форм прошлага часу: *каб жыўшы даўжэй ён, то можа б яшчэ раз змяніўся; адно дзіцянё, што павісшы ў руках, падымала; праз вакно ён пабачыўшы быў Тадэвуша; ах, каб гэта ён знаўшы!* Б. А. Тарашкевіч побач з агульнабеларускай лексікай карыстаўся пры перакладзе і словамі абмежаванага ўжывання: дыялектызмамі *(майначыць* 'ашукваць', *курдуплыя* 'прысадзістыя, пакручастыя', *тарнаваць* 'прахаджвацца', *улісляцца* 'заляцацца', *жагаркі* 'сучкі, палачкі'), паланізмамі (*акрутны* 'жорсткі', *бат* 'пуга', *веле* 'многа', *гойны* 'шчодры', *двururка* 'двухстволка', *залога* 'гарнізон'), русізмамі *(староннікі, ізба, гроб, обе, споры, разгаворы, красналіцы)*, уласнымі наватворамі *(прыцяг* 'прывабнасць', *дажывоцце* 'астатак жыцця', *давернік* 'даверaная асоба', *пераможнік* 'пераможца', *нягледзь* 'нягледзячы') і некаторымі іншымі. Увядзенне Б. А. Тарашкевічам у мову перакладу шэрага фанетычных, акцэнталагічных, граматычных і лексічных асаблівасцей рэгіянальнага характару тлумачыцца не столькі слабай унармаванасцю тагачаснай беларускай літаратурнай мовы, колькі мэтамі версіфікацыйнымі і стылістычнымі: каб вытрымаць рытм і рыфмы вершаваных радкоў і, галоўнае, стварыць мясцовы і часавы каларыт і зрабіць пераклад як мага больш стылістычна адэкватным арыгіналу, мова якога таксама не была пазбаўлена рэгіяналізмаў і архаізмаў.

*Літ.:* Ліс А. С. Браніслаў Тарашкевіч. Мн., 1966; Яновіч А. Б. А. Тарашкевіч — мовавед: Да 90-годдзя з дня нараджэння // Бел. лінгвістыка. Мн., 1982. Вып. 21; Bergman A. Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu. Warszawa, 1977. *І. К. Германовіч.*

Тлумачальны слоўнік — гэта тып лінгвістычнага даведніка, у якім значэнні рэестравых слоў раскрываюцца пры дапамозе філалагічных (часам і энцыклапедычных) дэфініцый, удала падабраных сінонімаў, шматлікіх тыповых выразаў і «апраўдальных» цытат з твораў мастацкай, навуковай, навукова-папулярнай і публіцыстычнай літаратуры і перыёдыкі. Тлумачальнымі слоўнікамі ў шырокім сэнсе з'яўляюцца ўсе філалагічныя даведнікі, у якіх даюцца тлумачэнні значэнняў слоў.

Паводле характару словаспісу слоўнікі з тлумачальным ухілам падзяляюцца на 3 групы: слоўнікі-даведнікі, у якіх тлумачыцца нелітаратурная лексіка; нарматыўныя слоўнікі, якія даюць азначэнні толькі словам літаратурнай мовы; агульныя слоўнікі, што тлумачаць як літаратурную, так і нелітаратурную лексіку. Слоўнікі пералічаных 3 груп адрозніваюцца паміж сабой не толькі характарам рэестравай лексікі, але і наборам тых слоўнікавых паказчыкаў, пры дапамозе якіх гэта лексіка апісваецца.

Гістарычна склалася так, што першыя азначэнні многія словы нашай мовы атрымалі ў слоўніках-даведніках ненарматыўнага характару: дыялектных, гістарычных, перакладных і інш. Слоўнікі гэтай групы тлумачаць словы пры дапамозе сціслых азначэнняў, асобных слоў сінанімічнага характару, аднаслоўных іншамоўных эквівалентаў, ілюстрацый у выглядзе фрагментаў з народнага маўлення, цытат са старабеларускіх пісьмовых помнікаў. Напрыклад, у дыялектным слоўніку Я. Чачота «Некаторыя крывіцкія ідыёмы (уласнаназвы) з Наваградскага павета, а таксама асобныя словы, што розняцца па значэнні са словамі іншых славянскіх моў» (1846) дзеяслоў *выскаліцца* тлумачыцца наступным чынам: «**Выскаліцца** — вышчарыцца, моцна засмяяцца. *Выскаліць зубы. Мароз выскаліўся* — мароз узмацнеў пры пагодзе». Тлумачэнне слова *бжола* ў гістарычным «Слоўніку заходнярускай гаворкі» (рукапіс) І. І. Грыгаровіча мае наступны выгляд: «**Бжола** — пчела. *Хто бы сосну порубал, в которой бжолы были, повинен платити за нее полкопы грошей.* Стат. Лит. 339». Найбольш дасканалыя тлумачэнні беларускіх слоў з усіх слоўнікаў гэтай групы падаюцца ў «Слоўніку беларускай гаворкі» (1870) І. І. Насовіча. Напрыклад: «**Шибкій,** прил. 1) Быстрый. *Шибкій конь.* 2) Быстро объемлющій умомъ. *Шибкій розумомъ хлопецъ гэтый: заразъ смекнецъ, въ чомъ дзело».* Яшчэ больш дэталізаванае семантычнае апісанне зместу розных беларускіх слоў даюць сучасныя дыялектныя слоўнікі. Прывядзём для прыкладу слоўнікавы артыкул назоўніка *біч* з 1-га тома 5-томнага «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (Мн., 1979): «**Біч** м. 1) Ударная частка цэпа. *У цэпе біч, ім білі па снапах.* Грыкені Вільн., Чычалі Швянч. *У цэпе біч, чым білі па снапах.* Кемялішкі Астр. *Біч, прывязаны да цапільна.* Вялікія Баяры Шчуч. *Біч у цэпу.* Малахоўцы Бар. *Біч звязвае вужык, лятае біч. Некалі бічы продалі.* Альхоўцы Лях.; гл. ДАБМ, карта № 258. 2) Раменная ці вяровачная частка пугі. *Вяроўка ці рамень у пугі — біч.* Старыя Трокі Трак. 3) Бізун. *Біч, а не — так кнут, тое самае.* Быстрыца Астр.».

У параўнанні са слоўнікамі-даведнікамі з першай слоўнікавай групы нарматыўныя слоўнікі беларускай мовы тлумачаць рэестравую лексіку пры дапамозе значна большай колькасці самых розных слоўнікавых паказчыкаў. Прычым наборы гэтых паказчыкаў у розных слоўніках даволі істотна адрозніваюцца. Апошняе дазваляе вылучаць у межах гэтай групы асобныя падгрупы аднатыпных слоўнікаў: уласна тлумачальныя слоўнікі; фразеалагічныя слоўнікі з тлумачальным ухілам; перакладныя слоўнікі, у якіх змяшчаецца значная колькасць шматслоўных апісальных перакладаў-тлумачэнняў; семанімічныя слоўнікі тлумачальнага характару (слоўнікі сінонімаў і блізказначных слоў, антонімаў, амонімаў, паронімаў, паралексаў, аднакарэнных, цяжкіх слоў і г. д.); тэрміналагічныя слоўнікі нарматыўнага характару і некаторыя іншыя.

Першым у межах айчыннай лексікаграфіі ўласна тлумачальным слоўнікам, для якога асноўным паказчыкам з'яўляецца дэфініцыйны, стаў падрыхтаваны для сярэдняй школы «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» А. Я. Баханькова, І. М. Гайдукевіча, П. П. Шубы (выд. 1—4. 1966—90). Асноўнае яго прызначэнне — тлумачыць незразумелыя словы і выразы, якія сустракаюцца пры чытанні мастацкай, публіцыстычнай, афіцыйна-дзелавой, навукова-тэхнічнай літаратуры, а таксама ў гутарковай мове. Слоўнік рэалізуе сваё прызначэнне пры дапамозе дэфініцыйнага, сінанімічнага, антанімічнага, фразеалагічнага, спалучальнага, ілюстрацыйнага, стылістычнага, граматычнага, адрасатнага, энцыклапедычнага і цэлага шэрага іншых слоўнікавых паказчыкаў. Але адносна невялікі паводле аб'ёму слоўнік (каля 7,5 тыс. слоў), прызначаны для школьнікаў, не мог цалкам задаволіць грамадскую патрэбу ў тлумачэнні незразумелых і малавядомых слоў.

Для беларускай лексікаграфіі першай завершанай працай такога характару стаў 5-томны (у шасці кнігах) «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (Мн., 1977—84), складзены супрацоўнікамі сектара лексікалогіі і

лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі. Збор лексічнага матэрыялу для гэтага слоўніка пачаўся пасля Айчыннай вайны літаральна на пустым месцы, паколькі сабраная беларускімі мовазнаўцамі ў 1920—30-я гады акадэмічная слоўнікавая картатэка жывой беларускай мовы загінула. У адпаведнасці з распрацаванай М. П. Лобанам агульнай канцэпцыяй тлумачальнага слоўніка сучаснай беларускай мовы пры стварэнні новай слоўнікавай картатэкі франтальна і выбарачна былі распісаны: мастацкія творы больш як 300 беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, пачынаючы ад Я. Купалы і Я. Коласа; каля 100 найважнейшых навуковых, вучэбных, тэхнічных і публіцыстычных выданняў; шматгадовыя падшыўкі рэспубліканскіх газет і часопісаў; літаратурна апрацаваныя тэксты вуснай народнай творчасці. Выкарыстаны таксама багатыя лексічныя матэрыялы энцыклапедый і слоўнікаў розных тыпаў. Вынікам амаль 25-гадовай працы стала Фундаментальная картатэка Інстытута мовазнаўства, якая налічвае каля 3 мільёнаў картак-цытат. Поруч з распрацоўкай картатэкі яе ўкладальнікамі быў апублікаваны шэраг перакладных, арфаграфічных і іншых слоўнікаў, некалькі лексікалагічных зборнікаў і многія дзесяткі навуковых і энцыклапедычных артыкулаў па беларускай лексікалогіі і лексікаграфіі. Назапашаныя такім чынам практычныя і тэарэтычныя веды аб слоўнікавым складзе нашай літаратурнай мовы дазволілі ў канцы 1960-х гадоў пачаць распрацоўку артыкулаў шматтомнага тлумачальнага слоўніка. Непасрэдны ўдзел у напісанні слоўнікавых артыкулаў гэтай выключнай па сваіх памерах і складанасці лексікаграфічнай працы прыняло каля 2 дзесяткаў супрацоўнікаў Сектара лексікалогіі і лексікаграфіі. Усе 6 кніг гэтай працы былі падрыхтаваны і выдадзены на працягу 7 гадоў. Па колькасці рэестравых адзінак (больш за 105 тыс. слоўнікавых артыкулаў) акадэмічны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» амаль не адрозніваецца ад самых вялікіх тлумачальных слоўнікаў большасці славянскіх моў, а па глыбіні і ўсебаковасці апісання лексікі з'яўляецца найбольш поўным і універсальным лінгвістычным даведнікам па лексіцы сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Напрыклад, слова *баба* апісваецца ў ім (Т. 1. С. 318) з выкарыстаннем наступных слоўнікавых паказчыкаў: арфаграфічнага (падаецца літарны склад рэестравага слова); акцэнталагічнага (пазначаны націск загаловачнага слова; склонавага (прыводзіцца канчатак слова ў родным склоне адз. ліку: *-ы*); граматычнага (пазначаны граматычны род слова: *ж*); дэфініцыйнага, які найбольш распрацаваны, паколькі з яго дапамогаю



**«Тлумачальны слоўнік беларускай мовы».**

апісваюцца не толькі 5 розных значэнняў слова *бабá* [1. Матчына або бацькава маці; 2. Старая жанчына наогул; 3. Замужняя жанчына; 4. Тое, што і бабка[1] (у 3 знач.); 5. Пра цікаўнага, балбатлівага або з нерашучым характарам мужчыну], але і 2 асобныя адценні 3-га значэння (// Жанчына наогул; // Жонка), змест устойлівых словазлучэнняў са словам *баба* (**Каменная баба** — старажытны статуй з каменю. **Снегавая баба** — злепленая са снегу чалавечая фігура), а таксама значэнні фразеалагізмаў з гэтым словам (**Агонь-баба** — энергічная жанчына. **Баба-яга** — а) у казках славянскіх народаў — злая вядзьмарка; б) пра злую, старую жанчыну. **Базарная баба** — сварлівая, грубая жанчына. **Бой-баба** — мажная, з шумлівым характарам жанчына. **Хват-баба** — увішная, заўзятая ў працы жанчына); сінанімічнага (адно з адценняў 3-га значэння і 4-е значэнне тлумачацца пры дапамозе сінонімаў і блізказначных слоў *жонка, бабка*[1]); аманімічнага (у якасці асобных рэестравых адзінак тлумачацца амонімы: *баба*[2], *баба*[3] і *баба*[4]); фразеалагічнага (прыводзяцца і тлумачацца тыя фразеалагізмы, у складзе якіх ёсць слова баба[1]); парэміялагічнага (як ілюстрацыя да 1-га значэння даецца прыказка *Хто бабе не ўнук*?); стылістычнага (3-е, 4-е і 5-е значэнні суправаджаюцца абмежавальнымі стылістычнымі паметамі *разм., уст., перан.*); эмацыянальна-ацэначнага (5-е значэнне мае пры сабе абмежавальную памету эмацыянальнай ацэнкі *іран.*); ілюстрацыйнага (для ілюстрацыі розных уласцівасцей слова *баба* прыводзяцца 7 «апраўдальных» цытат з літаратурных крыніц і 1 прыказка); адрасатнага (адзначаецца, што ілюстрацыі ўзяты з мастацкіх твораў Я. Коласа, К. Крапівы, З. Бядулі, Я. Брыля, А. Якімовіча, М. Смагаровіча, а таксама з беларускага фальклору); спасылачнага (4-е значэнне тлумачыцца пры дапамозе спасылкі на слоўнікавы артыкул іншай рэестравай адзінкі); лінгвакраіназнаўчага (даволі поўна апісваецца той клас беларускіх рэалій, для абазначэння якіх звычайна ўжываецца слова *баба*[1]).

Акрамя пералічаных слоўнікавых паказчыкаў у гэтым слоўніку выкарыстаны для апісання лексікі многія іншыя лексікаграфічныя прыёмы і паказчыкі. Напрыклад, для іншамоўных слоў, як правіла, падаецца этымалагічная даведка. Для дзеясловаў, што маюць няпоўную парадыгму граматычных форм ці асаблівасці ў іх утварэнні, нярэдка прыводзіцца ўвесь набор нарматыўна дапушчальных асабовых канчаткаў, а таксама паметы трывання *(зак., незак.)*. Даволі часта ў артыкулах выкарыстоўваюцца і такія слоўнікавыя паказчыкі, як антанімічны, спалучальнасны, тэрміналагічны, энцыклапедычны, шэраг граматычна арыентаваных паказчыкаў [памета *нескл.* сведчыць аб незмяняльнасці назоўнікаў або прыметнікаў па склонах, для дзеясловаў часам даюцца формы кіравання (*з кім, каго-што, да чаго-н., на што-н.* і г. д.), прыналежнасць слова да пэўнага граматычнага класа часта абазначаецца адпаведнай паметай (*выкл., займ., ліч., прысл.* і інш.)], а таксама анамастычны, дыялектны, варыяцыйны, словаўтваральны і многія іншыя слоўнікавыя паказчыкі.

Уключэнне ў словаспіс «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» толькі агульнаўжывальнай лексікі і найбольш пашыраных слоў з іншых лексічных разрадаў (асобных навуковых тэрмінаў, неалагізмаў, дыялектызмаў, гістарызмаў і г. д.) адбілася на прынцыпах адбору і апісання яго рэестравай лексікі ў бок звужэння. Пэўную ролю ў гэтым адыграла слабасць фактычнай базы слоўніка, абумоўленая, з аднаго боку, аднаснай беднасцю фундаментальнай картатэкі, а з другога — адсутнасцю рэальнай магчымасці абаперціся на шматлікія лексікаграфічныя крыніцы даваеннай пары, якія ў 1950—70-я гады знаходзіліся пад афіцыйнай забаронай. Менавіта непаўнатой зыходных лексічных матэрыялаў тлумачыцца адсутнасць у многіх артыкулах слоўніка неабходных «апраўдальных» цытат з аўтарытэтных літаратурных крыніц. У рэестр слоўніка без папярэдняга пашырэння і замацавання ў пісьмовым і вусным маўленні трапілі словы-калькі.

Вопыт сусветнай лексікаграфіі сведчыць, што стварыць дасканалы ўласна тлумачальны слоўнік нарматыўнага характару для маладой літаратурнай мовы можна толькі на выключна шырокай моўнай аснове пасля аб'яднання самых розных (літаратурных, дыялектных, тэрміналагічных, лексікаграфічных і іншых) крыніц лексічнага матэрыялу. Такое аб'яднанне звычайна адбываецца ў выніку стварэння агульнага слоўніка нацыянальнай мовы, які тлумачыць усю без выключэння і літаратурную, і нелітаратурную лексіку. Прыкладам такога слоўніка можна назваць «Тлумачальны слоўнік жывой велікарускай мовы» (1863—66) У. І. Даля. Спробы складання слоўніка гэтага тыпу рабіліся ў 1925 г. на Беларусі Слоўнікавай камісіяй на чале з С. М. Некрашэвічам (гл. **Некрашэвіч Сцяпан Міхайлавіч**), аднак і сёння завершанага

слоўніка беларускай мовы пакуль што не існуе, і задача па яго стварэнні застаецца актуальнай.

*Літ.:* Лобан М. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы // Беларуская мова: (Даследаванні па лексікалогіі). Мн., 1965; Я г о ж. Беларускі тлумачальны // Наст. газ. 1971. 23 кастр.; Каўрус А. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы // Полымя. 1969. № 8; Наркевіч А. Праца, якую чакалі // Беларусь. 1986. № 12; Садоўскі П. Час одуму: Да выхаду 5-томнага Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы // Полымя. 1986. № 5; Каврус А. Открываются сокровища // Неман. 1987. № 11; З рэдакцыйнай пошты // Полымя. 1987. № 12.

*В. К. Шчэрбін.*

## ТРАНСКРЫПЦЫЯ І ТРАНСЛІТАРАЦЫЯ

Звычайнае арфаграфічнае пісьмо не прыстасавана для перадачы ўсёй разнастайнасці гукаў мовы, таму для дакладнага графічнага адлюстравання гукавой мовы выкарыстоўваецца спецыяльная сістэма запісу, якую прынята называць транскрыпцыяй (ад лац. transcriptio перапісванне). У залежнасці ад таго, якія фанетычныя адзінкі з'яўляюцца прадметам транскрыпцыі, адрозніваюць транскрыпцыю фанетычную (уласна гукавую, ці сегментную, і інтанацыйную, ці суперсегментную) і фанематычную (фаналагічную).

Ф а н е т ы ч н а я транскрыпцыя — гэта спосаб перадачы на пісьме вуснай мовы з усімі яе гукавымі асаблівасцямі. Асноўны прынцып фанетычнай транскрыпцыі — адназначнае абазначэнне кожнага гука асобным знакам. Яна можа будавацца на аснове алфавіта любой нацыянальнай мовы. У якасці універсальнай транскрыпцыі выкарыстоўваецца Міжнародны фанетычны алфавіт, створаны міжнароднай фанетычнай асацыяцыяй у 1886 г.

У фанетычных апісаннях беларускай мовы звычайна выкарыстоўваецца транскрыпцыя, заснаваная на беларускім алфавіце. Але паколькі ў беларускай мове гукаў больш, чым літар у алфавіце, то для абазначэння некаторых гукаў выкарыстоўваюцца асобныя літары з іншых алфавітаў (лацінскага, старагрэчаскага), а таксама спецыяльныя над- ці падрадковыя дыякрытычныя (ад грэч. diakriticos адрознівальны) значкі. Так, для абазначэння фрыкатыўнага [г] звычайна побач з літарай *г* беларускага алфавіта выкарыстоўваецца грэчаская літара γ (гама), выбухны [г] абазначаецца літарай g; зычны [j] перад галосным перадаецца знакам *j*: [jасны]; зычныя [дз] і [дж] абазначаюцца адпаведна літарамі *z*, *ž*: [z'эн'], [хažу]. Дыякрытычныя значкі, якія выкарыстоўваюцца ў транскрыпцыі, паказваюць на наступныя асаблівасці гукаў: знак падаўжэння (¯) над літарай ці (:) пасля літары: [збожа] або [збож:а]; памякчэнне зычных — (’) справа ад літары: [л’ос]; агубленне зычнага (°): [с°ум]; знак больш пярэдняй артыкуляцыі галоснага (˙): [кл˙он], [з˙амл˙а]. Мяккі знак, апостраф, вялікія літары і знакі прыпынку ў транскрыпцыі не ўжываюцца. Гукавы адрэзак (гук, слова, сінтагма, фраза), які транскрыбіруецца, бярэцца ў квадратныя дужкі.

Для перадачы асноўных характарыстык, якія фарміруюць інтанацыю сінтагмы і фразы, выкарыстоўваецца інтанацыйная транскрыпцыя. Сінтагматычнае чляненне абазначаецца адной рыскай (/), фразавае чляненне і паўза ў абсалютным канцы фразы — дзвюма рыскамі (//), слоўны націск знакам акута над націскным складам (′), пабочны (слабы) націск — знакам гравіса ( ` ), сінтагматычны ці фразавы націск — (″). Характар руху асноўнага тону і іншыя фанетычныя сродкі інтанацыі перадаюцца графічна стрэлкамі, рысачкамі, знакамі паўз.

Ф а н е м а т ы ч н а я (фаналагічная) транскрыпцыя перадае не ўсе асаблівасці вуснай мовы, а толькі той яе бок, які выконвае адрознівальную функцыю, г. зн. яе фанемны склад (гл. **Фаналогія**). У адрозненне ад фанетычнай фанематычная транскрыпцыя бярэцца ў вуглавыя <дом> або косыя /дом/ дужкі. У фанематычнай транскрыпцыі кожная фанема, незалежна ад пазіцыі яе рэалізацыі, перадаецца заўсёды адным і тым знакам. Для такой формы запісу патрэбна значна менш знакаў, чым для фанетычнай транскрыпцыі. Але пры рознай інтэрпрэтацыі фанемнага складу і транскрыпцыя будзе рознай. Так, словы *вада* [вада] — *вод* [вот] у фанематычнай транскрыпцыі маскоўскай фаналагічнай школы запісваюцца <вода> — <вод>, а ў фанематычнай транскрыпцыі ленінградскай фаналагічнай школы /вада/ — /вот/.

**Табліца суадноснасці кірыліцкіх і лацінскіх літар пры транслітарацыі**

| Кірыліцкая літара | Лацінская літара |
|---|---|
| А а | A a |
| Б б | B b |
| В в | V v |
| Г г | G g |
| Д д | D d |
| Е е | E e |
| Ё ё | E e |
| Ж ж | J j |
| З з | Z z |
| И и І і | I i |
| К к | K k |
| Л л | L l |
| М м | M m |
| Н н | N n |
| О о | O o |
| П п | P p |
| Р р | R r |
| С с | S s |
| Т т | T t |
| У у | U u |
| Ф ф | F f |
| Х х | X x |
| Ц ц | C c |
| Ч ч | Ch ch |
| Ш ш | Sh sh |
| Щ щ | Sc sc |
| Ы ы | Y y |
| Э э | E e |
| Ю ю | IU iu |
| Я я | IA ia |

Фанематычная транскрыпцыя выкарыстоўваецца пры марфемным і словаўтваральным аналізе, дзе важным з'яўляецца не столькі вымаўленчы, колькі структурны бок.

Акрамя фанетычнай і фанематычнай, існуе таксама п р а к т ы ч н а я транскрыпцыя. Яе асноўная задача — перадаваць сродкамі пэўнага нацыянальнага алфавіта іншамоўныя ўласныя імёны, тэрміны, розныя наменклатурныя абазначэнні з захаваннем па магчымасці іх дакладнага гукавога аблічча. Яна будуецца строга на базе алфавіта пэўнай мовы без выкарыстання дадатковых знакаў. Гукі, якіх няма ў мове, што запазычвае, замяняюцца найбольш блізкімі да іх па гучанні ці функцыяніраванні (параўнаем: франц. *Bouloyne* Булонь, англ. *Smith* Сміт). Практычная транскрыпцыя выкарыстоўваецца звычайна ў тых выпадках, калі пераклад іншамоўнага слова немагчымы або непажаданы, найчасцей у спецыяльнай літаратуры, на геаграфічных картах, у турысцкіх даведніках, пры перакладзе прэйскурантаў, тэхнічнай дакументацыі і г. д.

Т р а н с л і т а р а ц ы я (ад лац. trans праз і littera літара) — палітарная перадача пісьма, заснаванага на адным алфавіце, сродкамі іншага алфавіта. Транслітарацыяй часам называюць практычную транскрыпцыю іншамоўных слоў, што не зусім дакладна (параўнаем, напрыклад, перадачу назвы горада *Weimar* сродкамі транслітарацыі — *Веймар*, сродкамі транскрыпцыі — *Ваймар*). Транслітарацыя, у адрозненне ад практычнай транскрыпцыі, дапускае ўмоўнае выкарыстанне літар, увядзенне дадатковых, дыякрытычных знакаў.

Для перадачы кірыліцкага пісьма ў розных краінах свету выкарыстоўваецца да 20 розных сістэм транслітарацыі лацінскімі літарамі з арыентацыяй іх на французскі, англійскі, нямецкі і іншыя алфавіты. Дзякуючы сваёй універсальнасці транслітарацыя можа выконваць ролю адзінага эталона для вырашэння практычных задач пры шматбаковых міжнародных кантактах. Пры карыстанні міжнародным тэлеграфам выкарыстоўваецца спецыяльная табліца суадноснасці кірыліцкіх і лацінскіх літар.

Літары *ь*, *ъ*, а таксама апостраф пры транслітарацыі не перадаюцца.

*Літ.:* Суперанская А. В. Теорети-

ческие основы практической транскрипции. М., 1978; Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. М., 1984. *Л. І. Сямешка.*

## «ТРОЯ»

«Троя» («Аповесць пра Трою» або «Гісторыя траянскай вайны») — папулярнае ў сярэдневяковай Еўропе апавяданне пра заснаванне, асаду і разбурэнне старажытнагрэчаскага горада Троі. Ва ўсходніх славян твор распаўсюдзіўся ў канцы 15 ст.

Раннія беларускія спісы аповесці не захаваліся. У наш час вядомы 2 спісы гэтага твора. Адзін з іх адносіцца да пачатку 16 ст. і цяпер зберагаецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Украіны ў Кіеве. Другі спіс пачатку 17 ст. змяшчаецца ў зборніку, які захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу. Абодва гэтыя спісы ўзыходзяць да розных рэдакцый «Троі» і істотна адрозніваюцца аб'ёмам, зместам і мовай. Пра беларускае паходжанне кіеўскага спіса сведчаць найперш спарадычныя выпадкі акання і якання (*валаючего, вѧзуть, коралевства, фартуна*). Кіеўскі спіс напісаны двума почыркамі, прычым большая частка яго — тыповы паўустаў пачатку 16 ст., меншая — скорапіс таго часу. Гэтыя часткі адрозніваюцца і па мове. Напісаная паўуставам большая частка кіеўскага спіса вылучаецца надзвычай вялікай колькасцю арфаграфічных, марфалагічных і лексічных паланізмаў. У творы шматлікія выпадкі транслітарацыі польскага насавога гука [ą] праз *у*, што прыводзіць да ўтварэння спецыфічных граматычных форм, зусім невядомых іншым помнікам старабеларускага пісьменства: *są — су* (-суть), *z sobą — с собу* (-с собою) і інш. У выніку такой субстытуцыі ў тэксце нярэдка ўжываюцца прыметнікі жаночага роду творнага склону з канчаткам *-у* замест *-ою: велику болестью, велику моцью, горку смертью.* У галіне лексікі вылучаюцца перш за ўсё польскія адпаведнікі беларускіх поўнагалосных форм тыпу *бронить (-боронить), глова, глосъ, злото, кроль, строна.* Многія іншыя лексемы ўжываюцца ў польскім фанетычным абліччы: *длȣгий, кторый, медци* (-межи), *помоць, слȣнце, чвартый.* З польскім уплывам трэба звязваць ужыванне іменных (кароткіх) форм прыметнікаў жаночага роду ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку: *велика ѡбфитость, певна речь, добру волю, посполиту раду.* Польскіх марфалагічных рыс асабліва многа ў сістэме дзеяслова. На польскі ўзор ужываюцца некаторыя дзеясловы цяперашняга часу ў 3-й асобе адзіночнага ліку: *лежи, мови, муси, упомина.* Побач з канчаткам *-мъ* у 1-й асобе



**«Троя». Старонка рукапісу пачатку 16 ст.**



**«Троя». Старонка рукапісу пачатку 17 ст.**

множнага ліку ўжываецца і варыянтны канчатак *-мы: давамы, идемы, мамы, пошлемы.* Асабліва прыкметны польскі ўплыў ва ўжыванні форм прошлага часу тыпу *ведлъ, вседлъ, збодлъ, моглъ, прибеглъ.* Адзначаныя марфалагічныя паланізмы зрэдку трапляюцца і ў іншых тагачасных помніках. Кіеўскі спіс прыкметна вылучаецца тым, што тут вельмі часта ўжываюцца своеасаблівыя формы дзеепрыслоўяў, зусім невядомыя іншым старабеларускім помнікам. Яны зближаюцца з формамі 3-й асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу: *будуць, видюць, жедаюць, идуць, прошюць, хцюць.* Такія штучныя формы ўтварыліся ў выніку транслітарацыі адпаведных польскіх дзеепрыслоўяў: będąc — *будуць*, widząc — *видюць*, chcąc — *хцюць* і г. д.

Зусім іншая мова ў тых частках кіеўскага спіса, якія напісаны скорапісам. Тут ужываюцца пераважна поўнагалосныя формы назоўнікаў *берегъ, голова, дорога, король, сторона,* формы прошлага часу дзеясловаў могъ, палъ, умеръ, дзеепрыслоўі *будучи, бьючи, делаючи, жадаючи.* Такія словаформы былі звычайнымі ў беларускім пісьменстве 16 ст. Гэта сведчыць пра тое, што сярод беларускіх кніжнікаў таго часу яшчэ не было адзінства ў выбары моўных сродкаў. Выкарыстанне граматычных форм і лексічных адзінак залежала ад ступені валодання перакладчыкамі мовай-крыніцай і сваёй мовай, ад іх адукацыйнага ўзроўню і культурна-ідэалагічнай арыентацыі.

Пецярбургскі спіс «Троі» ўзнік амаль на цэлае стагоддзе пазней за кіеўскі, калі беларуская літаратурна-пісьмовая мова дасягнула вышэйшай ступені свайго развіцця. У ім суіснуюць асноўныя моўныя стыхіі, якія наогул характэрны былі для пісьмовай мовы таго часу: традыцыйныя моўныя сродкі, новыя з'явы, якія замацоўваліся ў пісьменстве пад уздзеяннем народна-дыялектнага ўжывання, і запазычанні з польскай мовы. У помніку, напрыклад, захоўваецца традыцыйнае ўжыванне літары *ѣ*, якая пішацца як у каранях паасобных слоў, так і ў канчатках назоўнікаў: *вѣнець, лѣсъ, мѣсто, жонѣ, в дорозѣ, в ѡстровѣ.* Помнік не ведае ранейшай літары Ѧ, ва ўсіх пазіцыях у слове ўжываецца толькі літара ꙗ, як і ў дзелавых дакументах гэтага часу: *дѣтꙗ, сѣꙗти, ꙗблоко.* У назоўніку вылучаюцца формы мужчынскага роду з канчаткам *-ови/-еви* ў давальным склоне адзіночнага ліку: *коневи, мужеви, цареви.* Такія назоўнікі ў назоўным склоне множнага ліку маюць канчатак *-ове/-еве: грекове, мужеве, панове, цареве.* Аддзеяслоўныя назоўнікі ў месным склоне заканчваюцца на *-ю: в пошанова$^{н}$ю,* ѡ *заби$^{т}$ю,* ѡ *затраче$^{н}$ю,* ѡ *збуре$^{н}$ю.* Прыметнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку маюць традыцыйны канчатак *-ый/ий*, прычым канцавое *-й* перадаецца праз паерык$^{s}$: *валечны$^{s}$, моцны$^{s}$, мужны$^{s}$, царски$^{s}$.* Прыметнікі жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак *-ои: болшои працы, великои силы, веселои выспы.* У назоўным і вінавальным склонах множнага ліку прыметнікі ўсіх 3 родаў ужываюцца з уніфікаваным канчаткам *-ыи/ии: грецкии войска, роздертыи шаты.* Суіснаванне сродкаў рознага паходжання асабліва прыкметна ў сістэме дзеяслова. Інфінітывы ўжываюцца з традыцыйным фармантам *-ти: бȣдовати, видѣти, дати, ховати.* Інфінітываў на *-ть* у помніку няма зусім. Формы 3-й асобы адзіночнага ліку ўсюды пішуцца з вынасным *т: згине$^{т}$, зостане$^{т}$, мови$^{т}$.* Але дзеясловы 1-га спражэння трапляюцца і без канцавога *-т; бȣде, мае, хоче,*

Формы прошлага часу 3-й асобы адзіночнага ліку ўжываюцца з традыцыйным суфіксам *-лъ: былъ, ехалъ, мѣлъ, назвалъ*. Але трапляюцца і новыя формы з суфіксам *-в*, якім абазначаецца канцавое *-у* нескладовае: *заложі*$^{в}$, *заплы*$^{в}$, *призва*$^{в}$, *притѧгну*$^{в}$. Адпаведныя формы ад дзеясловаў на зычны маюць канцавое *-лъ*, што звязваецца з польскім уплывам: *ωблеглъ, принеслъ, присѧглъ, ȣтеклъ*.

Такое ж суіснаванне розных моўных плыней назіраецца і ў слоўнікавым складзе. Тут на агульнаславянскую і агульнаўсходнеславянскую лексічную аснову накладваецца беларуская лексіка, таксама розная паводле паходжання, сярод якой асабліва прыкметныя паланізмы. Сюды адносяцца назоўнікі тыпу *валка, вапно, дѣтинство, личба, млоденецъ, моцъ, муръ, панство, праца, скарбъ*, прыметнікі *валечный, вдѧчный, коштовный, моцный, розмаитый*, дзеясловы *бачити, будовати, кохати, мовити, пытати, ховати, честовати, шȣкати* і інш.

З боку мовы пецярбургскі спіс належыць да ліку самых лепшых помнікаў старабеларускага пісьменства. Урывак з кіеўскага спіса «Троі» апублікаваны ў кнізе: «Хрестоматія давньої української літератури (доба феодализму)» (Київ, 1952), пецярбургскі спіс — у кнізе «Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры» (Мн., 1959) і пачатак твора — у выданні «Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы» (ч. 1. Мн., 1961).

*Літ.:* Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967.

*А. І. Жураўскі.*

## ТРЫВАННЕ ДЗЕЯСЛОВА

Трыванне — лексіка-граматычная катэгорыя дзеяслова, якая паказвае на завершанасць або незавершанасць дзеяння. У адпаведнасці з гэтым адрозніваюцца значэнні закончанага і незакончанага трывання. Дзеясловы незакончанага трывання, як правіла, маюць пару — суадносныя дзеясловы закончанага трывання, напрыклад: *вязаць — звязаць, месці — падмесці, есці — з'есці*. Звычайна лічыцца, што дзеясловы, якія ўтвараюць падобную пару, лексічна тоесныя і адрозніваюцца толькі граматычна, інакш кажучы, што падобная пара — гэта 2 формы аднаго слова. Сапраўды, калі супаставіць такія дзеясловы, як *адступіць — адступаць, намалясаваць — малясаваць, адабраць — адбіраць* і падобныя, то розніца ў лексічных значэннях у кожнай пары амаль не заўважаецца. Аднак калі супаставіць такія дзеясловы, як *стукаць — стукнуць, сыпаць — сыпануць, ездзіць — выездзіць, рабіць — перарабіць*, то відавочна, што ў кожнай пары першае і другое слова — розныя дзеясловы, са сваім лексічным значэннем. Таму многія вучоныя, якія займаюцца даследаваннем катэгорыі трывання (ёсць спецыяльная галіна граматыкі, прысвечаная вывучэнню трывання,— аспекталогія), дзеля зручнасці прапануюць лічыць кожны дзеяслоў, нават у суадносных парах, асобнай лексічнай адзінкай. Калі прыняць такое рашэнне, тады катэгорыю трывання прыйдзецца прызнаць катэгорыяй лексічнай.

І ўсё ж у мове ёсць вялікая колькасць пар, у якіх розніца ў значэнні паміж дзеясловам незакончанага і закончанага трывання зводзіцца толькі да таго, што дзеяслоў закончанага трывання набывае дадатковае значэнне вычарпанасці дзеяння і давядзення яго да пэўнага выніку, напрыклад: *рабіць — зрабіць, абедаць — паабедаць, паласкаць — выпаласкаць, будзіць — пабудзіць* і інш. Лічыцца, што такія дзеясловы розняцца паміж сабой толькі трываннем і ўтвараюць трывальную пару.

Разам з тым у беларускай мове ёсць даволі вялікая колькасць дзеясловаў, якія не маюць парных па трыванні адпаведнікаў. Гэта дзеясловы або толькі незакончанага *(сумаваць, ляжаць, спаць)*, або толькі закончанага *(рынуць, хлынуць)* трывання. Такія дзеясловы характарызуюцца пэўнымі асаблівасцямі значэння: пачынальнасці *(зазвінець, успыхнуць)*, абмежавальнасці *(памаўчаць, пераначаваць)*, аднакратнасці *(кіўнуць, стукнуць)*, рэзультатыўнасці *(пераймаваць, адумацца, дагаспадарыцца)*, шматкратнасці *(папабегаць, папаездзіць)*, перарывістасці *(паблісквацъ, ускрыкваць)*, суправаджальнасці *(прытупваць, прыгаворваць)*, размеркавальнасці *(пайтоптваць, паралушчыць)*, узаемнасці *(перасвіствацца, перагаворвацца)* і інш. Гэтыя значэнні ў мовазнаўстве атрымалі назву спосабаў дзеяслоўнага дзеяння.

Утварэнне трывальнай пары ў мове можа ісці двума шляхамі — перфектывацыяй (ад дзеяслова незакончанага трывання ўтвараецца дзеяслоў закончанага трывання) або імперфектывацыяй (ад дзеяслова закончанага трывання — дзеяслоў незакончанага трывання). Утварэнне пары можа адбывацца з дапамогай суфікса *(авалодаць — авалодваць, абвясціць — абвяшчаць)*, прыстаўкі *(раскідáць — параскідáць, слабéць — аслабéць)*, чаргавання гукаў *(адабраць — адбіраць, перарваць — перарываць)*, змены націску *(вы́разаць — выразáць, рассы́паць — рассыпáць, склікаць — склікáць)*, замены асновы *(браць — узяць, класціся — легчы)*. Паасобныя дзеясловы шляхам паслядоўнага далучэння прыставак і суфіксаў могуць утвараць не адну пару, а рады ступенных пераходаў з аднаго трывання ў другое: *лічыць — адлічыць — адлічваць — наадлічваць*. Пры гэтым у першай пары маем перфектывацыю *(лічыць — адлічыць)*, у другой *(адлічыць — адлічваць)* — другасную імперфектывацыю, у трэцяй *(адлічваць — наадлічваць)* — перфектывацыю суфігіраваных дзеясловаў пры дапамозе прыставак.

Тыя дзеясловы, якія не ўтвараюць трывальных пар, называюцца няпарнымі або аднатрывальнымі. Яны маюць значэнне або толькі закончанага, або толькі незакончанага трывання.

Дзеясловы толькі закончанага (абсалютна закончанага) трывання могуць быць як беспрыставачнымі *(рынуць, хлынуць)*, так і прыставачнымі *(ачнуцца, адгрукатаць, назграбаць)*. Дзеясловы толькі незакончанага (абсалютна незакончанага) трывання таксама могуць быць як беспрыставачнымі *(спаць, быць, ісці*, безасабовыя *спіцца, нездаровіцца)*, так і прыставачнымі *(паблісквацъ, перастрэльвацца, разгульваць)*. Усе такія дзеясловы называюць дзеянне, якое паводле сваёй семантыкі не мае мяжы.

Паралельна з гэтым у мове існуе група дзеясловаў, якія лічацца двухтрывальнымі. Такія дзеясловы могуць быць ужыты як са значэннем закончанага, так і са значэннем незакончанага трывання: *дараваць, ліквідаваць, арганізаваць, атакаваць* і інш. У кантэксце такія дзеясловы выступаюць толькі з адным пэўным трывальным значэннем, параўнайце: *атрад арганізаваўся ў маі* (тут дзеяслоў мае значэнне закончанага трывання); *збыт прадукцыі сістэматычна арганізаваўся на падрадных асновах* (тут дзеяслоў мае значэнне незакончанага трывання). Група двухтрывальных дзеясловаў папаўняецца за кошт запазычаных слоў *(камандзіраваць, лімітаваць, уніфікаваць* і інш.). Разам з гэтым названая група разбураецца. Разбурэнне двухтрывальнасці ідзе двума шляхамі. Па-першае, асобныя дзеясловы дапускаюць суфігіраванне, у выніку якога ўтвараецца новы дзеяслоў *(ліквідаваць — ліквідоўваць)*. Утвораны дзеяслоў набывае значэнне незакончанага трывання, а зыходны дзяслоў *(ліквідаваць)* пакідае за сабою значэнне толькі закончанага. Падругое, да дзеяслова можа далучацца прыстаўка *(ліквідаваць — зліквідаваць)*, і ўтвораны такім чынам дзеяслоў набывае значэнне закончанага трывання, а зыходны — незакончанага. У падобных выпадках можа ствараецца сітуацыя, калі адзін і той жа дзеяслоў, нягледзячы на наяўнасць парных паводле трывання дзеясловаў, можа функцыяніраваць як дзеяслоў закончанага і незакончанага трывання. У працэсе станаўлення літаратурнай нормы такая сітуацыя з цягам часу пераадольваецца.

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 1. Мн., 1985; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## ТУРСКАЯ ГАЛІНА

Польскі мовазнавец і славіст Г. Турская нарадзілася 15 кастрычніка 1901 г. ў г. Іркуцк. У 1929 г. скончыла Віленскі універсітэт. Доктар філалагічных навук (1949), прафесар (1954). Працавала ў Віленскім, Тарунскім універсітэтах (у 1952—61 гг. узначальвала кафедру славянскай філалогіі). З 1960 г. ў Інстытуце славяназнаўства Польскай АН. Памерла 5 студзеня 1979 г.

Г. Турская даследавала польска-беларуска-літоўскія моўныя кантакты. Актыўны ўдзел у дыялекталагічных экспедыцыях даў ёй магчымасць добра пазнаёміцца з мясцовымі дыялектамі літоўцаў і беларусаў, а таксама з мовай палякаў на Віленшчыне, якая стала асноўным аб'ектам яе даследаванняў. У артыкуле даследчыцы «Польская мова на Віленшчыне» (1930) дадзена характарыстыка віленскага дыялекту, зазначаны дамінуючы ўплыў беларускіх гаворак. Каштоўную інфармацыю пра рэгіянальны варыянт польскай мовы на Беларусі ў 1-й палове 19 ст. знаходзім у яе манаграфіі «Мова Яна Ходзькі» (1930), дзе адзначана, што беларускія лексічныя, фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя ўплывы ў творах Я. Ходзькі пераважаюць над лацінскімі, французскімі, нямецкімі і рускімі. У 1939 г. Г. Турская здала ў друк манаграфію «Польская мова на літоўскай аснове», рукапіс і набор якой загінулі ў час вайны. Захавалася ўсяго некалькі экземпляраў часткі гэтай работы (да 144 стар.), якая была перавыдадзена ў кнізе «Даследаванне польскай мовы крэсаў» (т. 1. Вроцлаў, 1982). Асаблівая ўвага ў ёй звернута на знешнюю гісторыю польскага перыферыйнага дыялекту на Віленшчыне, узнікненне кампактных арэалаў якога Турская адносіць да 1850—70-х гг. Літоўскія сяляне, якія ўцягваліся ва ўсё больш інтэнсіўныя кантакты з беларускай, польскай і афіцыйнай рускай мовамі, выбралі для міжмоўных кантактаў польскую як мову касцёла і маёнткаў (да гэтага часу лічылася, што пад паланізацыю падпадалі пераважна беларусы). Шырока і абгрунтавана прадстаўлены аўтарам беларускія і літоўскія ўплывы ў польскім перыферыйным дыялекце на Віленшчыне. Пытанні беларускага ўплыву на «пальшчызну віленскую» і польскую літаратурную мову закранаюцца ў шэрагу прац Г. Турскай, прысвечаных мове твораў А. Міцкевіча. Вядома таксама, што Турская працавала над падручнікам беларускай мовы.

*Тв.:* Język polski na podłożu litewskim: (O powstaniu polskich obszarów językowych na Wileńszczyźnie). Wilno, 1939; Kilka uwag o rymach Mickiewicza: (Rymy z *ó*) // Język Polski. 1929. Nr 14; Pewien wypadek rekonstrukcji cechy formalnej w dialektach białoruskich // Sprawozdania Towarzystwa Naukowego w Toruniu. (1947—48). 1949. Nr 1; Z zagadnień języka Mickiewicza: Rymy typu *«osie: stało się»* // Pamiętnik Literacki. 1952. Nr 43; Prowincjonalizmy językowe w «Panu Tadeuszu» // Materiały dyskusyjne Kom. Nauk. Obchodu Roku Mickiewiczowskiego. Warszawa, 1955; Język opisów przyrody w *«Panu Tadeuszu»* wobec tradycji polskiego klasycyzmu // O języku Adama Mickiewicza. Wrocław, 1959; Słownik trudniejszych wyrazów białoruskich w t. V i VI «Ludu białoruskiego» M. Federowskiego // Federowski M. Lud białoruski. Warszawa, 1969. T. 7; Leksykalne pożyczki białoruskie w języku polskim (doba staropolska) // Sprawozdania PAN. 1970. Nr 13, z. 2; Uwagi o białoruskim przekładzie «Pana Tadeusza» przez Bronisława Taraszkiewicza // Адам Міцкевіч. Пан Тадэуш. Ольштын, 1984. *В. Л. Вярэніч.*

## ТЫПАЛАГІЧНАЕ МОВАЗНАЎСТВА

Тыпалагічнае мовазнаўства (інакш л і н г в і с т ы ч н а я т ы п а л о г і я) — адзін з асноўных (поруч з параўнальна-гістарычным, арэальным і супастаўляльным) кірункаў параўнальнага даследавання моў, які вывучае структурна-функцыянальныя падабенствы і адрозненні паміж роднаснымі і няроднаснымі мовамі, выяўляе адпаведныя моўныя тыпы і стварае ў канчатковым выніку тыпалагічную класіфікацыю моў (гл. **Тыпалагічная класіфікацыя моў**).

Спецыфіку тыпалагічнага метаду можна вызначыць, калі суаднесці яго па найбольш істотных паказчыках з іншымі метадамі параўнальнага мовазнаўства, галоўнае адрозненне паміж якімі — аб'ём лінгвістычнага матэрыялу. Супастаўляльны аналіз будуецца на параўнанні 2 моў. Параўнальна-гістарычны аналіз вядзецца на матэрыяле роднасных моў. Арэальныя даследаванні блізкія да гістарычнага аналізу, бо аналізуюць элементы аднаго і таго ж паходжання ў розных мовах. Тыпалагічныя ж даследаванні накіраваны на разгляд шырокага разнамоўнага матэрыялу.

Акрамя аб'ёму выкарыстанага моўнага матэрыялу, параўнальныя метады адрозніваюцца і спецыфічным да яго стаўленнем. Так, генетычны метад мае справу з роднасцю, арэальны — з аднароднасцю моў, а тыпалагічны — з ізамарфізмам, які тлумачыць розныя стадыі адной і той жа мовы, а таксама 2 адначасовыя ці аддаленыя ў часе станы 2 розных моў, суседніх і тых, што маюць рознае паходжанне.

Адрозненнямі ў характары разнамоўнага аналізуемага матэрыялу тлумачыцца і выбар генеалагічным, арэальным і тыпалагічным мовазнаўствам розных таксанамічных адзінак у аднайменных класіфікацыях моў. Так, супадзенне структурных рыс аб'ядноўвае мовы ў тыпы (параўнайце флектыўныя, аглюцінатыўныя і іншыя мовы). Блізкасць лінгвістычных адзінак, агульных па паходжанні, аб'ядноўвае мовы ў групы, ці сем'і. Структурная і матэрыяльная агульнасць, што склалася ў выніку моўных кантактаў, аб'ядноўвае мовы ў моўныя саюзы. Галоўнымі і даволі рознымі паняццямі генеалагічнага, арэальнага і тыпалагічнага мовазнаўства з'яўляюцца, адпаведна, моўная сям'я, моўны саюз і лінгвістычны тып.

Супастаўленне тыпалагічнага метаду з іншымі метадамі параўнальнага мовазнаўства сведчыць пра большую універсальнасць тыпалагічнага вывучэння моў, якое не мае часавых і прасторавых абмежаванняў. У сваю чаргу, накіраванасць тыпалагічнага метаду на выяўленне галоўных рыс структурнай будовы любой нацыянальнай мовы адначасова і набліжае яго да агульнай тэорыі мовы, і ставіць у залежнасць ад узроўню развіцця мовы.

Першымі тыпалагічнымі даследаваннямі моў лічацца працы «Аб мове і мудрасці індзейцаў» Ф. Шлегеля (1808) і «Нататкі аб правансальскай мове і літаратуры» А.-В. Шлегеля (1818), у якіх вызначаны 3 марфалагічныя тыпы моў: флектыўны, ці фузіённы (падзяляецца на сінтэтычны і аналітычны), да яго адносяцца і славянскія мовы; афіксальны, ці аглюцінатыўны (такога тыпу турэцкая мова); аморфны, ці ізаляваны (характарызуе кітайскую мову). Заснавальнікам тыпалагічнага мовазнаўства лічыцца В. фон Гумбальт, які ў кнізе «Аб адрозненні будовы чалавечых моў і яго ўплыве на духоўнае развіццё чалавецтва» (1830—35) сфармуляваў асноўныя прынцыпы лінгвістычнай тыпалогіі як самастойнага кірунку параўнальнага мовазнаўства. Ён дапоўніў марфалагічную класіфікацыю папярэднікаў вылучэннем яшчэ аднаго тыпу — інкарпаравальнага, ці полісінтэтычнага, да якога адносіў індзейскія мовы ў Паўночнай Амерыцы і палеаазіяцкія мовы ў Азіі.

Вынікам разнастайных тыпалагічных даследаванняў ужо ў 20 ст. стала стварэнне, па падліках Ю. У. Раждзественскага, больш як 200 тыпалагічных класіфікацый моў. Прычым сярод іх ёсць ужо не толькі марфалагічныя класіфікацыі, але і сінтаксічныя, фаналагічныя, лексічныя, а таксама комплексныя, так званыя «цэльнасістэмныя», і функцыянальныя. Галоўным жа дасягненнем мэтанакіраванага тыпалагічнага даследавання розных моў свету можна лічыць вызначэнне «шэрагу больш ці менш дакладных тыпаў граматычнай (марфалагічнай і сінтаксічнай) будовы моў, тыпаў гукавога ладу моў (а ў прыватнасці, арганізацыі вакалізму і кансанантызму), тыпаў функцыянальнага выкарыстання моў (параўнайце такія характарыстыкі, як сусветная мова, мова міжнацыянальных зносін, нацы-

янальная мова, літаратурная мова, дыялект, гаворка)» (Супрун А. Е. Лексическая типология славянских языков. Мн., 1983. С. 3).

Такая падкрэсленая ўвага лінгвістаў-тыполагаў да вызначэння разнастайных лінгвістычных тыпаў зусім не выпадковая. Класіфікацыя моў не галоўная мэта тыпалагічнага даследавання. Яго мэта перш за ўсё заключаецца ў сістэмным апісанні пэўнай мовы, зрабіць якое дазваляе сукупнасць найбольш істотных лінгвістычных паказчыкаў (тыпалагічных крытэрыяў, ці тыпалагічных канстантаў), што аб'ядноўваюцца паняццем лінгвістычнага тыпу. Гэта паняцце для тыпалагічнага мовазнаўства з'яўляецца цэнтральным.

Выяўленне лінгвістычнага тыпу і прыналежнасці да яго той або іншай мовы пачынаецца з лінгвістычнага апісання мовы пры дапамозе апісальнага, супастаўляльнага, генетычнага, арэальнага, дэдуктыўнага, статыстычнага і іншых метадаў. На аснове апісання знаходзяць сістэму агульных для большасці вывучаемых моў структурных і функцыянальных рыс (абсалютныя і прыватныя моўныя універсаліі, тыпалагічныя канстанты). Потым даецца тыпалагічная характарыстыка кожнай мове, якая ўключае супадзенні і адрозненні з адпаведнымі тыпалагічнымі канстантамі. Мноства моў аднаго і таго ж лінгвістычнага тыпу, калі іх тыпалагічныя характарыстыкі шмат у чым супадаюць, называецца тыпалагічным класам моў. Сукупнасць разнастайных тыпалагічных класаў складае тыпалагічную класіфікацыю моў.

Непаўната і несупастаўляльнасць лінгвістычных апісанняў розных моў не даюць магчымасці сёння стварыць поўную тыпалагічную класіфікацыю. Разам з тым тыпалагічнае мовазнаўства лічыцца адным з вядучых кірункаў сучаснай лінгвістычнай навукі. Яно дазваляе кожную мову разглядаць з двух ці трох самастойных пунктаў погляду па яе адносінах да іншай мовы. Сведчаннем выключнай гнуткасці і універсальнасці тыпалагічнага метаду з'яўляецца надзвычай разгалінаваная сучасная будова тыпалагічнага мовазнаўства. У залежнасці ад мэты, якую ставіць тыпалагічнае даследаванне (выяўленне універсалій, стварэнне цэльнасістэмнай тыпалагічнай класіфікацыі ці пошук адрозненняў паміж мовамі аднаго лінгвістычнага тыпу), яно адносіцца да адной з галін тыпалагічнага мовазнаўства — універсалогіі, сістэматалогіі ці характаралогіі. Паводле аб'ёмаў вылучаецца тыпалогія цэльнасістэмная (ахоплівае ўвесь матэрыял кожнай мовы) і фрагментарная, ці тыпалогія падсістэм (будуецца на матэрыяле аднаго з узроўняў мовы). У залежнасці ад таго, адзінкі якога ўзроўню (фанемы, словы, формы слоў, сінтаксічныя канструкцыі і г. д.) абіраюцца аб'ектам тыпалагічнага даследавання, яно належыць да фаналагічнай, лексічнай, лексіка-семантычнай, марфалагічнай або сінтаксічнай тыпалогіі. Акрамя таго, значная колькасць даследаванняў прысвечана вывучэнню міжузроўневых моўных з'яў (лексіка-граматычная тыпалогія, часцінамоўная тыпалогія, прасадычная тыпалогія і г. д.). Структурныя характарыстыкі ў мове ці моўнай адзінцы выяўляе структурная тыпалогія, структурныя функцыі моўнай адзінкі ў маўленні ці сферу яе выкарыстання — функцыянальная тыпалогія.

Гнуткасць тыпалагічнага метаду праяўляецца і ў яго ўзаемадзеянні з іншымі метадамі параўнальнага мовазнаўства. Яго прымяненне ў арэальнай лінгвістыцы прывяло да стварэння арэальнай тыпалогіі. Вывучэнне генетычна роднасных моў пры дапамозе гэтага метаду вядзе да стварэння мікратыпалогіі, якая проціпастаўляецца макратыпалогіі (будуецца на матэрыяле няроднасных моў). Такое сумяшчэнне розных класіфікацыйных крытэрыяў спрыяе максімальна дакладнаму вызначэнню адной мовы сярод разнастайных моў свету. Напрыклад, сумяшчэнне генеалагічнай, арэальнай і тыпалагічнай характарыстык беларускай мовы дае падставы сцвярджаць, што яна адносіцца да ўсходняй падгрупы славянскай групы балта-славянскай галіны індаеўрапейскай моўнай сям'і, уваходзіць у балта-славянскі моўны саюз і належыць да сінтэтычнага падтыпу флектыўнага лінгвістычнага тыпу.

*Літ.:* Новое в лингвистике. Вып. 3. Типологическое изучение языков. М., 1963; Затовканюк М. К вопросу о микротипологии восточнославянских языков // Slavia. 1968. № 2; Шакун Л. М. Да тыпалогіі ўсходнеславянскіх літаратурных моў // Бел. мова. Мн., 1980. Вып. 7; Шчэрбін В. К. Аб некаторых магчымасцях расшырэння тыпалагічных крытэрыяў пры вывучэнні славянскай лексічнай семантыкі // Бел. лінгвістыка. 1983. Вып. 24; Яго ж. К проблеме построения лексико-семантической типологии русского и белорусского языков // Рус. язык. Мн., 1985. Вып. 5.

*В. К. Шчэрбін.*

## ТЫПАЛАГІЧНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ МОЎ

Мовы пры *тыпалагічнай класіфікацыі* аб'ядноўваюцца ў групы ў залежнасці ад таго, як яны пабудаваны, да якога тыпу паводле структуры належаць. Каб гэта вызначыць, трэба, папершае, аднолькава апісаць структуру кожнай мовы, пабудаваць яе мадэль, а па-другое, выбраць істотную прыкмету параўнання.

Мова — сістэма складаная, сістэма сістэм. У ёй некалькі ярусаў, узроўняў: фанетычны, граматычны (марфалагічны і сінтаксічны), лексічны. У кожным з іх можна выбраць істотную прыкмету параўнання моў і аб'яднання іх у пэўныя тыпы.

Найбольш распрацаванай і самай распаўсюджанай у лінгвістычнай навуцы з'яўляецца класіфікацыя ў залежнасці ад граматычнага ладу мовы, у першую чаргу марфалогіі (менавіта таму ў літаратуры такая класіфікацыя моў раней называлася марфалагічнай). Яна вылучае 4 тыпы моў свету.

Ізалюючы, або аморфны, тып уключае мовы, у якіх словы нязменныя, а адносіны паміж словамі ў сказе ніяк не адлюстроўваюцца ў формах слоў, выражаюцца толькі іх парадкам. У кітайскай мове словы *ча* 'чай', *во* 'я', *бу* 'не', *хэ* 'піць', размешчаныя ў такой паслядоўнасці *(ча во бу хэ)*, абазначаюць 'я не п'ю чаю' (літаральна 'чай я не піць'). Да гэтага тыпу адносіцца в'етнамская (аманская) мова і іншыя.

Аглюцінатыўны тып уключае мовы, дзе да каранёвай марфемы далучаецца адзін ці некалькі афіксаў (прыставак, суфіксаў), кожны з якіх — са сваім граматычным значэннем. У мове суахілі (банту) слова *ва-та-сі-по-ку-я* 'калі яны не прыйдуць' складаецца з каранёвай марфемы *я* 'прыходзіць', прыставак *ва-* (для 3-й асобы множнага ліку), *та-* (будучы час), *сі-* (адмаўленне), *по-* (умоўнасць), *ку-* (прыкмета дзеяслоўнасці). Да такіх моў адносяцца цюркскія, фіна-угорскія і іншыя.

Флектыўны (фузійны) тып уключае мовы, дзе адносіны паміж словамі выражаюцца ў самім слове — канчаткам (флексіяй) залежнага слова або чаргаваннем гукаў унутры каранёвай марфемы (т. зв. ўнутраная флексія). У словазлучэнні *узяць кнігу* адносіны паміж словамі выражаюцца канчаткам назоўніка вінавальнага склону *-у* з абазначэннем прадмета (прамога аб'екта), на які накіравана ўздзеянне: у словазлучэнні *ісці лесам* канчатак творнага склону *-ам* паказвае абазначэнне назоўнікам месца (прастору), па якім адбываецца рух. У нямецкім *Buch* 'кніга' форма множнага ліку *Bücher* 'кнігі' выражана канчаткам — *er* і чаргаваннем каранёвай галоснай *u* — *ü*. Да флектыўных моў адносяцца індаеўрапейскія мовы (славянскія, у тым ліку і ўсе ўсходнеславянскія — руская, беларуская, украінская; германскія, раманскія і іншыя).

У мовах полісінтэтычнага тыпу розныя акалічнасці і канкрэтызатары выражаюцца не асобнымі словамі ці членамі сказа, а афіксамі ў складзе выказніка. Так, у мове племя чыанук (паўночнаамерыканскіх індзейцаў) фраза *я прыйшоў, каб аддаць ёй гэта* перадаецца *і-н-і-а-л-у-д-ам.* Такія мовы ў лінгвістычнай літаратуры раней называліся інкарпаруючымі (ад лац. incorporatio 'уключаю').

Пералічаныя тыпы трэба разглядаць як эталоны, з якімі параўноўваюцца рэальныя мовы пры іх класіфікацыі. Няма мовы, якая поўнасцю

адпавядала б толькі аднаму тыпу. Тая ці іншая мова можа набліжацца да пэўнага тыпу, мець яго пераважныя рысы і г. д. Беларускую мову нельга назваць флектыўнай у чыстым выглядзе: у ёй нямала выпадкаў, дзе граматычныя адносіны паміж словамі выражаюцца не столькі канчаткамі, колькі парадкам слоў *(Маці любіць дзіця — дзіця любіць маці)*. Нельга сцвярджаць і тое, што кітайская ці в'етнамская мова — чыста ізалюючыя: у іх даволі часта ўжываюцца так званыя ключавыя словы, якія паводле функцыі набліжаюцца да афіксаў.

Паводле тыпалагічнай класіфікацыі ўсе мовы падзяляюцца і па іншай аснове: у залежнасці ад выражэння граматычных значэнняў ці ў межах слова, ці па-за ім. Паводле гэтай класіфікацыі мовы бываюць 2 тыпаў: сінтэтычныя, у якіх усе граматычныя значэнні знаходзяць сваё выражэнне ўнутры слова (лацінская, польская, фінская і іншыя), і аналітычныя, у якіх гэтыя значэнні выражаюцца галоўным чынам у сказе, з дапамогай парадку слоў, службовых слоў ці інтанацыі (англійская, французская, усе ізалюючыя мовы — в'етнамская, кітайская і іншыя). Ні сінтэтычных, ні аналітычных моў у чыстым выглядзе не бывае. Адны з іх больш схільныя да аналітызму (балгарская), другія — да сінтэтызму (руская, беларуская). У рускай і беларускай мовах паступова прымнажаюцца элементы аналітызму.

*Літ.:* Кузнецов П. С. Морфологическая классификация языков. М., 1954; Теоретические основы классификации языков мира. М., 1980. *П. П. Шуба.*

## ТЭКСТ

Тэкст — гэта вынік маўленча-мысліцельнай дзейнасці людзей, які фіксуецца ў вуснай ці пісьмовай форме. Звычайна пад тэкстам разумеюць менавіта пісьмовы прадукт гэтай дзейнасці, таму што ён даволі істотна адрозніваецца ад спантаннага вуснага маўлення не толькі сваёй матэрыяльнай формай. Так, вуснае маўленне мае пераважна від дыялога, а пісьмовы тэкст выступае ў форме маналога; вуснае маўленне заўсёды працякае на базе агульнай для субяседнікаў сітуацыі, што робіць яго эліптычным, а пісьмовы тэкст, як правіла, максімальна стандартызаваны, нарміраваны і разгорнуты. У параўнанні з вусным маўленнем пісьмовы тэкст мае больш багаты лексічны склад, шматпланавую семантычную арганізацыю, часцей выкарыстоўвае сінтаксічна складаныя сказы. Вусны тэкст існуе толькі ў працэсе маўлення, пісьмовы тэкст застаецца на ўвесь час існавання матэрыялаў, на якіх ён напісаны.

Для філалагічных і ўвогуле для гуманітарных навук тэкст уяўляе сабой першасную данасць, невычэрпную крыніцу фактаў, цэлы свет, дзе ёсць свае спецыфічныя адзінкі, свая сістэма іх арганізацыі, свае правілы, дзейнічаюць разнастайныя заканамернасці і прынцыпы. Інакш кажучы, тэкст для філолагаў з'яўляецца тым, чым служыць для прадстаўнікоў прыродазнаўчых навук навакольная рэчаіснасць. Пісьмовы тэкст існуе ў 2 разнавіднасцях: рукапіснай (напісаны ад рукі) і друкаванай. Адрозненне паміж імі заключаецца як у спосабах напісання, так і ў тым, што рукапісная форма (пісьмы, дзённікі і інш.) увасабляе індывідуальныя якасці чалавека (асабісты кожнаму почырк, прыватны змест, адхіленні ад моўных норм і г. д.), а друкаваная форма цалкам падпарадкоўваецца нормам літаратурнай мовы і звычайна выражае сацыяльна значымы змест, які разлічаны на шырокае кола чытачоў. Трэба адрозніваць таксама тэкст як абагульняльную з'яву, ці катэгорыю, і канкрэтны тэкст, які можа быць прадстаўлены пісьмовым дакументам, мастацкім творам, артыкулам і г. д. Тэксты дзеляцца на звязныя і нязвязныя. У першым выпадку яны ўяўляюць сінтаксічна арганізаваныя вынікі моўнай дзейнасці (навуковыя, публіцыстычныя, мастацкія і іншыя творы), у другім — сукупнасць тых ці іншых моўных даных (слоўнікі, спісы імён і г. д.).

Тэматычна тэксты дзеляцца ў адпаведнасці з іх адносінамі да канкрэтных навуковых дысцыплін, сфер дзейнасці і заняткаў людзей, а ўнутры кожнай такой сферы робіцца больш падрабязнае разгаліноўванне пісьмовых тэкстаў. Так, тэксты мастацкай літаратуры — вершаваныя і празаічныя, драматычныя і недраматычныя, з улікам жанраў — раманы, аповесці, апавяданні, эсэ і інш.

Тэкст цікавы для спецыялістаў розных навуковых дысцыплін і таму можа разглядацца з некалькіх пунктаў гледжання. Для літаратуразнаўства тэкст мае значэнне не толькі як мастацкі твор з адлюстраванымі ў ім падзеямі, вобразамі, ідэямі і г. д., але і як самагодны дакумент са сваімі ўнутранымі асаблівасцямі, са сваёй гісторыяй, з рознымі варыянтамі, выданнямі, са сваім даведачным апаратам і г. д. Усе гэтыя ўласцівасці тэксту вывучае спецыяльная навука, якая ўзнікла ў нетрах літаратуразнаўства і атрымала назву тэксталогія. Яе тэарэтычныя задачы звязаны з вывучэннем крыніц тэксту (рукапісаў, друкаваных выданняў), усіх этапаў яго напісання, устанаўленнем яго сувязей з іншымі тэкстамі аўтара, з гістарычнымі і сацыяльнымі ўмовамі яго стварэння і інш. Практычныя задачы заключаюцца ў канчатковым друкаваным выданні тэксту. Найбольш аўтарытэтным лічыцца акадэмічнае выданне, якое арыентуецца на лепшы і самы дакладны варыянт тэксту, змяшчэнне ўсіх яго рэдакцый і варыянтаў, на суправаджэнне тэксту кампетэнтным навуковым каментарыем, поўным даведачным апаратам і інш.

Для мовазнаўства тэкст побач з вусным маўленнем з'яўляецца адзінай крыніцай фактычнага матэрыялу, але амаль да сярэдзіны 19 ст. тут вывучаліся, па сутнасці, толькі моўныя адзінкі і катэгорыі (да сказа ўключна), а тэкст як адзінае цэлае, як самастойная моўная з'ява толькі нядаўна пачаў даследавацца маладой мовазнаўчай дысцыплінай — лінгвістыкай тэксту. З лінгвістычнага боку ў тэксце вылучаюцца: кампаненты, ці адзінкі тэксту; сувязі і адносіны паміж гэтымі кампанентамі; семантыка тэксту. Матэрыяльныя кампаненты тэксту ствараюць даволі строгую іерархічную паслядоўнасць, у якой кожны папярэдні кампанент выступае як частка наступнага, у выніку чаго атрымліваецца такі ланцужок: літара→слова→сказ→абзац→тэкст. У вялікім тэксце (раман, аповесць, манаграфія і інш.) паміж абзацам і тэкстам знаходзяцца звычайна такія часткі тэксту, як параграф, раздзел, том. Разнастайныя адносіны паміж кампанентамі тэксту выступаюць у выглядзе граматычных і семантычных сувязей. Першыя паслядоўна аб'ядноўваюць элементы тэксту ў больш буйныя яго адзінкі (словы ў словазлучэнні, словазлучэнні ў сказы, сказы ў дыскурсы, дыскурсы ў тэкст). Другія ствараюць розныя па велічыні і складанасці сэнсавыя часткі тэксту, якія камбінуюцца адна з адной у розных прапорцыях. Змест, ці семантыка тэксту, мае надзвычай складаную структуру, у якой адлюстравана і задума аўтара, і знешняя рэчаіснасць, і значэнні слоў, словазлучэнняў, сказаў, і так званыя фонавыя веды (прэсупазіцыі), што чытаюцца паміж радкоў тэксту, і г. д. У навуковым тэксце з пункту гледжання яго фармальнай арганізацыі разгортваюцца 2 сэнсавыя лініі: сам змест тэксту і спасылкі на тую ці іншую літаратуру, у кантэксце якой і функцыяніруе навуковы тэкст.

Яшчэ адзін самы перспектыўны, але зусім не распрацаваны ў навуцы пункт гледжання на тэкст адкрываецца пры даследаванні яго з семіятычных пазіцый, з улікам усіх інфармацыйных сродкаў, якія ўжываюцца ў ім. Пакуль што ў полі зроку навукі пра тэкст знаходзяцца толькі вербальныя (слоўныя) знакі, але сапраўдную рэчаіснасць тэксту складаюць і шматлікія невербальныя знакі (лічбы, формулы, сімвалы, схемы, малюнкі, табліцы, фатаграфіі, знакі прыпынку, дыяграмы, чарцяжы і інш.), якія ў некаторых відах тэкстаў (матэматычных, тэхнічных і г. д.) займаюць больш месца і выконваюць большую інфарматыўную ролю, чым пісьмовыя сродкі натуральнай мовы. Немалаважныя для тэксту і разнастайныя спосабы

напісання літар і слоў, шматлікія прыёмы іх выдзялення ў тэксце (падкрэсліванне, набор розным шрыфтам, ужыванне каляровай афарбоўкі і г. д.). Усе тыя інфарматыўныя, камунікатыўныя, намінатыўныя, ілюстрацыйныя і іншыя функцыі, якія выконваюць у тэксце невербальныя знакі, а таксама характар узаемадзеяння апошніх з вербальнымі знакамі ствараюць плённыя ўмовы для ўзнікнення новай навукі — семіётыкі тэксту.

*Літ.:* Лихачев Д. С. Текстология. М.; Л., 1962; Новое в зарубежной лингвистике. Вып. 8. Лингвистика текста. М., 1978; Лінгвістычны аналіз тэксту: Зб. арт. Мн., 1978; Аспекты общей и частной лингвистической теории текста. М., 1982; Плотников Б. А. Семиотика текста: Параграфемика Мн., 1992. *Б. А. Плотнікаў.*

## ТЭЛЕБАЧАННЕ І МОВА

Як арыгінальная мастацкая сістэма тэлебачанне даволі актыўна трансфармуе семіётыку мовы, часта выкарыстоўваючы яе не толькі як выразны, але і як выяўленчы сродак (цітры, субцітры, застаўкі і г. д.). Для гэтага віду выяўленчай прадукцыі характэрны ўплыў экстралінгвістычных фактараў, які вядзе да стандартызаванасці лексікі, стылістыкі, актуальнага члянення сказаў, наяўнасці эліптычных і сегментаваных канструкцый. Вялікае значэнне мае літарная інфармацыя (напрамак і тэмп перамяшчэння цітраў, іх выяўленчае рашэнне, размяшчэнне ў кадры эмблем з надпісамі, выкарыстанне трукаў, музычнае і гукавое суправаджэнне).

Вусная мова прадстаўлена на тэлебачанні ў кадравых і пазакадравых тэкстах.

Моўныя зносіны на тэлебачанні заўсёды зарыентаваны на асобу. Яны вызначаюць абавязковую дыялагічнасць мовы вядучых, дыктараў, выступаючых, яе інтымнасць, давер. Звычайна мова вядучага скіравана да субяседніка ў кадры і да гледача. У той жа час адраснасць любой тэлепраграмы, яе прызначанасць канкрэтным гледачам у залежнасці ад полу, узросту, месца жыхарства, роду заняткаў, сацыяльнага становішча і г. д. арыентуюць мову камунікатара. Умовы вытворчасці тэлепраграм (абстаноўка ў студыі, рэпетыцыі, грыміраванне, неабходнасць глядзець у аб'ектыў, не адхіляцца ад мікрафона і г. д.) ствараюць сур'ёзныя перашкоды для свабодных, натуральных моўных адносін. Гэта абумоўлівае спецыфіку моўнага патоку на тэлебачанні: ён павінен успрымацца як спантанны, хоць гэтага на самай справе няма. Таму гутарковая мова тэлебачання-камунікатара заўсёды вынік свядомага кадзіравання. У параўнанні з бытавымі моўнымі зносінамі мова тэлебачання больш нарматыўная, мае больш ацэначных элементаў, хоць і не вiдавочна выражаных. Экстралінгвістычныя фактары, абумоўленыя сацыяльнай арыентаванасцю тэкстаў тэлебачання, вызначаюць і сістэму прафесіянальных прыёмаў, іх мову, яе лексічныя, фанетычныя, сінтаксічныя, інтанацыйныя асаблівасці. Да таго ж яна падмацоўваецца манерамі, жэстамі, позамі, паводзінамі.

Асаблівасці закадравых тэкстаў цесна звязаны з адлюстраваннем. Тэлебачанне як мастацкая сістэма дапускае дысананс паміж словам і адлюстраваннем толькі як матываваны творчы прыём. Ва ўсіх астатніх выпадках неадпаведнасць зместу кадра тэксту, які гучыць, амаль заўсёды прыводзіць да сур'ёзных выдаткаў этычнага, эстэтычнага, а часта і ідэалагічнага характару. Аднак адносіны слова і адлюстравання не адназначныя ці замацаваныя. Пры бясспрэчным прымаце адлюстравання слова далёка не заўсёды бывае дапаможным сродкам. У ходзе тэлевізійнай камунікацыі пастаянна перамяшчаецца сэнсавая дамінанта ад адлюстравання да слова і наадварот. Паўнакроўны тэлевізійны вобраз — гэта адзінства канкрэтна-пачуццёвага (адлюстраванне) і рацыянальна-абстрактнага (слова).

У аператыўных дакументальных тэлепраграмах узаемаадносіны адлюстравання і тэксту больш свабодныя, шматварыянтныя, імправізацыйныя. У тэлевізійных дакументальных фільмах закадравыя тэксты пішуцца больш дакладна для дасягнення максімальнай выразнасці, адпаведнасці моўнай культуры. У тэлевізійных мастацкіх фільмах і тэлеспектаклях характэрныя рысы сцэнічнай мовы трансфармуюцца ў адпаведнасці з патрабаваннем тэлебачання як мастацкай сістэмы: дасягнуць глыбіні і інтымнасці ўспрымання гледачом драматычных калізій твора.

Беларускае тэлебачанне ажыццяўляе свае інфармацыйна-прапагандысцкія і асветніцкія функцыі ў кантэксце развіцця беларускай нацыянальнай культуры. Прапаганда беларускай мовы стала адным з прадстаўнічых кірункаў нашага вяшчання: перадача «Роднае слова» — пра вытокі беларускай мовы, беражлівыя адносіны да моўных скарбаў, пра актыўную пазіцыю ў пытаннях развіцця нацыянальнай мовы і літаратуры (гл. **«Роднае слова»**). Дашкольнікі ў перадачы «Літарынка» далучаюцца да вывучэння беларускага пісьменства, фальклору. Трансліруюцца школьныя ўрокі беларускай мовы і літаратуры. У літаратурна-публіцыстычнай праграме «Ліра» выступаюць майстры беларускага слова — пісьменнікі, дзеячы культуры, знакамітыя вучоныя, артысты.

Другая якасць тэлебачання выяўляецца ў сукупнасці спецыфічных выяўленча-выразных сродкаў, уласцівых яму як экраннай форме адлюстравання рэчаіснасці. Мова тэлебачання ўбірае ў сябе: рэпартажнасць, аднамаментнасць і адэкватнасць адлюстравання падзей у рэальным часе іх здзяйснення; імгненнасць данясення вонкавага аблічча падзей, аб'ектаў і г. д. да шматмільённай аўдыторыі; магчымасць (дзякуючы шматкамерным здымкам) поўнага ўсеабдымнага адлюстравання рэчаіснасці; здольнасць публіцыстычна і этычна завастраць любы змест, які перадаецца па тэлевізійным канале; лаканічнасць, графічнасць адлюстравання.

Прафесіянальная мова работнікаў тэлебачання складвалася некалькі дзесяцігоддзяў. Яна з'яўляецца як бы падмовай літаратурнай мовы, адлюстроўвае ўзаемасувязь сацыяльных і моўных з'яў у сферы тэлебачання. Крыніцай яе даволі багатай лексікі служаць тэхніцызмы: *эфір, манітор, тракт, табло, сінхрон, пульт, мікшэр*; абрэвіятура *АСК* (апаратна-студыйны комплекс), *АВЗ* (апаратная відэазапісу), *ТЖК* (тэлевізійны журналісцкі комплекс); журналісцкія прафесіяналізмы: *інтэрв'ю, кадр, нарыс;* пераасэнсаваная агульнаўжывальная лексіка: *перадача, наезд, узбуйненне, мантаж, афармленне, аператар, перспектыва, цыкл, карцінка:* устойлівыя словазлучэнні: *узяць у кадр, адтрактаваць перадачу, паставіць святло, агучыць праграму, адманціраваць стужку*; фразеалагізмы: *эфект прысутнасці, рэнтген характару.*

*Літ.:* Светана С. В. Телевизионная речь: Функции и структура. М., 1976; Язык и стиль средств массовой информации и пропаганды. М., 1980; Дридзе Т. М. Язык и социальная психология. М., 1980; Язык и массовая коммуникация: Социолингв. исслед. М., 1984. Мельнікаў Э. Р. Экран — глядач — экран: Дыялогі каля тэлевізара. Мн., 1989.

*Э. Р. Мельнікаў.*

## «ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ ЗБОРНІК»

«Тэрміналагічны зборнік» — орган Тэрміналагічнай камісіі Акадэміі навук Беларусі. Выдаецца з мэтай упарадкавання беларускай навуковай тэрміналогіі. Складаецца з 3 раздзелаў: «Актуальныя пытанні ўпарадкавання беларускай навуковай тэрміналогіі», «Тэрмінаграфія», «Крыніцы вывучэння беларускай тэрміналогіі». Раздзел «Актуальныя пытанні ўпарадкавання беларускай навуковай тэрміналогіі» ўключае навуковыя артыкулы па пытаннях сучаснай лінгвістычнай, геалагічнай, музычнай, а таксама тэрміналогіі сельскай гаспадаркі і інш. Раздзел «Тэрмінаграфія» змяшчае тэрміны з розных галін ведаў (аграхімія, біялогія, глебазнаўства, жывёлагадоўля, кормавытворчасць, ветэрынарыя і інш.). Для зручнасці карыстання тэрміны падаюцца ў выглядзе беларуска-рускага і руска-




**«Тэрміналагічны зборнік» (вокладка). 1985—86.**

беларускага слоўніка. Лексікаграфічны матэрыял для слоўніка ўзяты з навуковых публікацый. Рэестр тэрмінаў абмяркоўваецца і зацвярджаецца на галіновых секцыях. У раздзеле «Крыніцы вывучэння беларускай тэрміналогіі» прыводзіцца дастаткова поўны спіс літаратуры для вывучэння тэрміналогіі пэўнай галіны ведаў. Так, у спіс літаратуры, якая паслужыла крыніцай для вывучэння беларускай музычнай тэрміналогіі, уключаны публікацыі, што адлюстроўваюць музычнае жыццё Беларусі з 1900 па 1941 год («Тэрміналагічны зборнік» 83). Значную працу па ўдасканаленні «Тэрміналагічнага зборніка» праводзіў акадэмік АН Беларусі М. В. Бірыла, удзел у распрацоўцы тэрміналагічнай лексікі прымаюць члены-карэспандэнты АН Беларусі А. І. Жураўскі і А. І. Падлужны, а таксама доктар філалагічных навук Л. А. Антанюк. Карысныя рэкамендацыі па моўным афармленні асобных тэрмінаў прапанавалі акадэмік С. Г. Скарапанаў, доктар сельскагаспадарчых навук прафесар П. С. Аўраменка, член-карэспандэнт АН Беларусі М. Р. Суднік, акадэмік АН Беларусі К. К. Атраховіч. З часу заснавання Тэрміналагічнай камісіі пры АН Беларусі (1980) выйшлі 4 выпускі «Тэрміналагічнага зборніка».

*Кр.:* Тэрміналагічны зборнік ''83. Мн., 1985; Тэрміналагічны зборнік ''84. Мн., 1986; Тэрміналагічны зборнік ''85 — ''86. Мн., 1990; Тэрміналагічны зборнік ''87 — ''88. Мн., 1993. *А. С. Лайшук.*

## ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ КАМІСІІ

Тэрміналагічныя камісіі — навуковыя аб'яднанні, створаныя урадам рэспублікі для выпрацоўкі і ўпарадкавання нацыянальнай тэрміналогіі. Першая спроба ўпарадкаваць існуючую беларускую навуковую тэрміналогію была ў 1919 г., калі камісія з мінскіх настаўнікаў прапанавала некаторыя тэрміны для пачатковай школы.

Нацыянальная тэрміналогія на пачатку 20 ст. развівалася вельмі марудна: не склалася нават гуманітарная тэрміналогія, якая на той час была прадстаўлена найбольш поўна і featured рознабакова.

У 1921 г. была створана Навукова-тэрміналагічная камісія пры Навукова-літаратурным аддзеле Народнага камісарыята асветы Беларусі. Ёй было даручана выпрацаваць тэрміналогію па ўсіх дысцыплінах, што вывучаліся ў сярэдняй школе. За кароткі перыяд (1922—30 гг.) было выдадзена 24 выпускі «Беларускай навуковай тэрміналогіі» па розных галінах ведаў (гл. **«Беларуская навуковая тэрміналогія»**).

У якасці метадалагічнага прынцыпу пры выпрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі на пачатку 1920-х гадоў было прынята палажэнне, што «ў аснову яе павінны быць пакладзены словы жывой народнай мовы». Гэты прынцып сябе апраўдаў, і членамі тэрміналагічнай камісіі былі прапанаваны ўдалыя тэрміны, якія трывала замацаваліся ў галіновых тэрмінасістэмах: *вадазбор, вільгацямер, зледзяненне, зрушэнне, паклад, прапластак, лугаванне* і інш. Разам з тым некаторыя штучныя калькі не замацаваліся ў тэрмінасістэмах: *старчак* (перпендыкуляр), *ускосіна* (дыяганаль), *канцавоссе* (полюс), *выяданне* (эрозія), *тайкачык* (песцік) і інш.

Нягледзячы на імкненне камісіі ўвесці ў тэрмінасістэмы як мага больш тэрмінаў, створаных сродкамі роднай мовы, нельга было пазбегнуць запазычанняў з іншых моў. Асабліва шмат запазычанняў у галіне прыродазнаўчых навук (у геалагічнай тэрміналогіі запазычанні склалі каля 60 працэнтаў).

Навукова-тэрміналагічная камісія побач са слоўнікавай работай займалася распрацоўкай тэарэтычных і практычных пытанняў тэрміналагічнай работы, якія абмяркоўваліся на пасяджэннях галіновых секцый, агульных сходах, сходах адпаведных аддзелаў Інстытута беларускай культуры. У распрацоўку тэрміналогіі розных галін ведаў у 1920—30-я гады значны ўклад зрабілі М. Байкоў, М. Гарэцкі, В. Ластоўскі, Я. Колас, Я. Купала, С. Некрашэвіч.

У пасляваенны перыяд пад кіраўніцтвам Я. Коласа была праведзена вялікая навукова-арганізацыйная работа па стварэнні тэрміналагічнай камісіі пры АН БССР, якая мелася нармалізаваць беларускую тэрміналогію, а таксама выдаваць бюлетэні галіновых тэрмінаў. Аднак гэту задачу Я. Колас не паспеў ажыццявіць. Часткова функцыі такой камісіі выконваліся ў 1970-я гады тэрміналагічнай камісіяй пры БелСЭ, якую ўзначальваў К. Крапіва, а таксама сектарам тэрміналогіі Інстытута мовазнаўства АН БССР.

У 1980 г. на аснове Пастановы Савета Міністраў БССР «Аб упарадкаванні беларускай навуковай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі» пры Акадэміі навук Беларусі была створана Тэрміналагічная камісія, асноўнымі задачамі якой было ўпарадкаванне існуючай навуковай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, выданне тэрміналагічных слоўнікаў і метадычных дапаможнікаў.

У 1991 г. ў адпаведнасці з «Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР» (1990) быў зацверджаны новы склад Тэрміналагічнай камісіі і акрэслены задачы, якія яна павінна вырашаць. Гэта: распрацоўка навуковых прынцыпаў устанаўлення беларускай тэрміналогіі; каардынацыя і арганізацыя тэрміналагічнай работы ў розных установах рэспублікі; укараненне ў практыку, друк, падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, у даведачную літаратуру навуковай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, якая адпавядае сучасным рэаліям. Камісія мае свой друкаваны орган — «Тэрміналагічны зборнік» (гл. **«Тэрміналагічны зборнік»**).

Тэрміналагічная камісія складаецца з прэзідыума, 9 секцый па важнейшых галінах навукі (грамадазнаўчай, навукова-тэхнічнай, фізічнай і матэматычнай, хімічнай, біялагічнай, сельскагаспадарчай, геалагічнай і геаграфічнай, медыцынскай і фізіялагічнай, секцыі па архітэктуры і будаўніцтве) і спецыяльных груп.

З 1989 г. працуе Тэрміналагічная камісія Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР. Мн., 1979. *А. С. Лайшук.*

## ТЭРМІНАЛОГІЯ

Тэрміналогія (ад лац. terminus мяжа, граніца+грэч. logia слова, вучэнне) — сістэма тэрмінаў пэўнай галіны навукі, вытворчасці, мастацтва; раздзел мовазнаўства, які займаецца вывучэннем тэрмінаў.

У разуменні сутнасці тэрміна мэтазгодна размяжоўваць функцыянальны і зместавы бакі тэрміналогіі, г. зн. яе прызначэнне і ўнутраны змест. Асноўнае прызначэнне — гэта намінатыўнасць, здольнасць называць навуковыя паняцці; унутраным зместам

з'яўляюцца адпаведныя паняцці і рэаліі. Розныя тэрміналагічныя сістэмы адрозніваюцца спецыфікай паняццяў і назваў, якімі яны апелююць. Так, у прыродазнаўчай, а яшчэ больш у тэхнічнай навуцы, дзе значнае месца займаюць прадметы, а колькасць адцягненых паняццяў параўнальна невялікая, на першае месца выступае намінатыўны аспект, а ў філасофіі, матэматыцы — наадварот. Розныя суадносіны намінатыўнага і паняційнага аспектаў характэрны і для асобных тэрмінаў. Гэтыя суадносіны цесна звязаны са ступенню канкрэтнасці або адцягненасці тэрмінаваных паняццяў.

Асноўным адрозненнем тэрміналогіі ад наменклатуры, якая толькі этыкетуе прадметы ці рэчы, звязаныя са сферай дзейнасці адпаведнай галіны ведаў, з'яўляецца наяўнасць абстрактных паняццяў і катэгорый. Лексічныя, семантычныя (знакавыя) асаблівасці тэрміналогіі пэўнай галіны дзейнасці абумоўлены гісторыяй фарміравання паняццяў гэтай галіны, іх спецыфікай і станам сістэматызацыі. Так, лексічная асаблівасць медыцынскай тэрміналогіі — значная колькасць слоў лацінскай мовы, якія сталі інтэрнацыянальнымі. Семіятычная асаблівасць тэрміналогіі фізікі, хіміі, матэматыкі — выкарыстанне побач з тэрмінамі-словамі і словазлучэннямі (вербальнымі тэрмінамі) літарных і лікавых абазначэнняў, сімвалаў і г. д.

Важнай асаблівасцю тэрміналогіі з'яўляецца тое, што ў складзе ўпарадкаванай тэрмінасістэмы не павінна быць мнагазначнасці, аманіміі, сінаніміі. Аднак у практыцы тэрмінаўжывання і фарміравання тэрміналагічных сістэм гэтыя семантычныя з'явы маюць месца, што ў пэўнай ступені абмяжоўвае дакладнасць тэрмінаў. Вось чаму спецыяльна-навуковае і лінгвістычнае ўпарадкаванне з'яўляецца асноўнай задачай тэрміналагічнай работы. Яе мэта — дасягненне дакладнасці і адназначнасці тэрмінаў, адпаведнасці паміж сістэмай тэрмінаў і сістэмай паняццяў. Лінгвістычнае ўпарадкаванне тэрміналогіі пэўным чынам звязана са станам развіцця навукі, аднак у найбольшай ступені яно залежыць ад ступені ўнармаванасці лексічных, словаўтваральных і іншых сродкаў мовы.

З'яўляючыся спецыфічнай і параўнальна самастойнай часткай у сістэме лексікі літаратурнай мовы, тэрміналогія непарыўна звязана з агульналітаратурнай лексікай. З аднаго боку, у агульналітаратурную лексіку пранікаюць тэрміны найбольш актуальных для грамадства навук: эканомікі, сацыялогіі, фізікі, біялогіі, медыцыны і інш. З другога — тэрміналагізуюцца асобныя словы агульналітаратурнай мовы: *поле, хваля, напружанне* (у фізіцы), *кішэня, галоўка, башмак* (у тэхніцы), *апавяданне, аповесць* (у літаратуразнаўстве) і г. д.

Фарміраванне беларускай тэрміналогіі адбывалася ў працэсе развіцця пэўных галін навукі і ўласна тэрміналагічнай работы. Як і ўся лексіка беларускай мовы, нацыянальная тэрміналогія прайшла доўгі шлях гістарычнага развіцця. Такія экстралінгвістычныя фактары, як забарона беларускай мовы Варшаўскім сеймам у 1696 г. і абмежаванае яе выкарыстанне ва ўмовах палітыкі рускага самадзяржаўя, якія амаль разарвалі пісьмовыя традыцыі паміж старабеларускай і сучаснай беларускай мовай, адмоўна ўздзейнічалі на пераемнасць натуральнага працэсу папаўнення і развіцця тэрміналагічнай лексікі. Лексікаграфічная і ўласна тэрміналагічная работа ў такіх сацыяльных умовах наогул не магла быць арганізавана.

Аднак у жывой народнай мове лексіка, якая пазней стала асновай для стварэння тэрмінаў, жыла і развівалася. Знойдзеныя ў Смаленску, Віцебску, Мсціславе берасцяныя граматы 13—14 ст. зафіксавалі назвы некаторых прадметаў і паняццяў рэчаіснасці таго часу, у тым ліку — намінацый тэрміналагічнага характару. Так, у тэксце знойдзенай у 1959 г. ў Віцебску берасцянай граматы можна вылучыць наступныя словы, што пазней увайшлі ў склад тэрміналагічнай лексікі старабеларускай мовы: *грыўня, жыта, купіць, наяўнасць, прадаць.*

Фарміраванню старабеларускай тэрміналогіі 14—17 ст. садзейнічала тое, што з другой паловы 14 ст. пісьмовая мова, якая склалася на тэрыторыі Беларусі, стала дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага. Гэта стварыла ўмовы для поўнафункцыянальнага развіцця мовы, фарміравання яе асноўных стыляў, у тым ліку і навуковага. Па-другое, шырокае распаўсюджанне на Беларусі з першай чвэрці 16 ст. атрымала кнігадрукаванне, якое садзейнічала выпрацоўцы лексічных нормаў, расшырэнню слоўніка, замацаванню новых паняццяў у моўнай практыцы. Найбольш развітымі галінамі тэрміналогіі ў гэты час былі грамадска-палітычная, юрыдычная, сельскагаспадарчая, прамысловая, гандлёвая, ваенная, філалагічная. Асабліва інтэнсіўна ішло фарміраванне грамадска-палітычнай і юрыдычнай тэрміналогіі, зафіксаванай у шматлікіх помніках дзелавога пісьменства. Калі напачатку імклівае развіццё гэтай тэрміналогіі забяспечвалася статусам беларускай мовы як дзяржаўнай, то пазней пэўны ўплыў на яе зрабілі творы старабеларускай літаратуры, асабліва палітычная сатыра і рэлігійная палеміка (прадмовы і пасляслоўі Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага і інш.).

Развіццё беларускай тэрміналогіі, як і іншых мовазнаўчых дысцыплін, было цесна звязана са станам школьнага навучання. Праваслаўным, ці так званым брацкім, вучылішчам і школам, якія ў 16—17 ст. былі шырока распаўсюджаны на Беларусі як цэнтры ўсходнеславянскага пісьменства, патрэбны былі падручнікі. Першая друкаваная граматыка выдадзена ў 1586 г. ў Вільні друкарняй Мамонічаў («Кграматыка словеньска языка...» прыпісваецца Іаану Дамаскіну). Кожная наступная граматыка, якая выдавалася на тэрыторыі Беларусі («Грамматика словенска» Л. Зізанія 1596 г., «Грамматика славенския правилное синтагма...» М. Смятрыцкага 1618 і 1619 гг.), усё больш тэрмінізавала лексічныя сродкі народнай беларускай мовы.

Ролю тэрміналагічных слоўнікаў 14—17 ст. часткова выконвалі глосы, якія змяшчаліся на палях ці паміж радкамі рукапісу або друкаванага выдання. Тлумачэнне «цёмных» (незразумелых чытачу) слоў з дапамогай глос садзейнічала станаўленню адзінага моўнага і сэнсавага ўжывання тэрмінаў, расшырэнню старабеларускай тэрміналагічнай лексікі. Такім чынам звычайна тлумачылі стараславянскія і запазычаныя словы, аднак у 17 ст. ў сувязі з пашырэннем сферы ўжывання беларускай мовы распаўсюдзілася тлумачэнне беларускіх тэрмінаў з дапамогай рускіх глос: *выличать — вычитать, грашовые — денежные, поданья — подати, час — время.* Некаторую частку беларускіх тэрмінаў змяшчалі так званыя прыточнікі, або гласарыі,— слоўнікі глосаў, якія былі пашыраны ў 16 ст.

Вялікае значэнне для развіцця беларускай тэрміналогіі меў створаны ў 1596 г. Л. Зізаніем першы славяна-беларускі слоўнік (гл. **«Лексіс» Л. Зізанія**), а таксама «Лексікон славенароскі» П. Бярынды (1627 г.; гл. **«Лексікон славенароскі» П. Бярынды**). Значная частка змешчаных тут тэрмінаў захавалася да нашага часу і ўвайшла ў тэрміналагічны фонд сучаснай мовы: *бытие, выхованье, истина, мова, особа, оборонца, паша, пытанье, сведомость, скарга, утиск.*

Нягледзячы на дастаткова высокі ўзровень развіцця навукі і асветы, адпаведны тэрміналагічны фонд старабеларускай мовы, а таксама даўнія лексікаграфічныя традыцыі, у 17—18 ст. спецыяльныя тэрміналагічныя слоўнікі на Беларусі выдадзены не былі. Убачылі свет толькі адзінкавыя навуковыя кнігі (гістарычныя хронікі, астранамічныя зборнікі). У многім гэта тлумачыцца перапынкам у функцыяніраванні пісьмовай беларускай мовы, а пазней — негатыўным стаўленнем да яе царскага ўрада Расіі.

Прыкметны ўплыў на развіццё новай беларускай тэрміналогіі зрабілі навуковыя і навукова-папулярныя публікацыі канца 19 — пач. 20 ст. (пасля выдання царскім урадам закона аб свабодзе друку). Шматлікія беларускія выданні таго часу, якія ставілі на мэце «тлумачыць усе з'явы прыроды, галоўныя законы фізікі і хіміі, жыцця зямлі... знаёміць з геаграфіяй

і гісторыяй роднага краю» (Лучынка. 1914. Кн. 4. С. 36), змяшчалі мноства тэрмінаў з розных галін ведаў. Многія з іх былі распрацаваны аўтарамі саміх публікацый.

Пасля ўтварэння БССР сфера функцыяніравання роднай мовы значна расшырылася (гл. **Беларусізацыя**). У 1919 г. быў створаны Беларускі школьны савет з мінскіх настаўнікаў, які распрацаваў асноўныя тэрміны для нацыянальнай пачатковай школы. Яны былі надрукаваны пазней у «Праграме беларускай пачатковай школы» на 1919/20 навучальны год.

У лютым 1921 г. ў рэспубліцы была створана Навукова-тэрміналагічная камісія, якая працавала спачатку пры Народным камісарыяце асветы ССРБ, а з 1922 — у Інстытуце беларускай культуры (з 1929 — Акадэмія навук БССР). Яна правяла вялікую работу па ўпарадкаванні беларускай навуковай тэрміналогіі. Вынікам працы камісіі з'явіліся кароткія слоўнікі тэрмінаў па граматыцы, логіцы, арыфметыцы, алгебры, батаніцы, геаметрыі, аналітычнай геаметрыі і трыганаметрыі, надрукаваныя ў «Вестнику Народного комиссариата просвещения ССРБ» (1921, № 1—2; 1922, № 2—6, 9—12), і 24 слоўнікі «Беларускай навуковай тэрміналогіі» (гл. **«Беларуская навуковая тэрміналогія»**), выдадзеныя на працягу 1922—30 гг.

Прынцыпы стварэння новых тэрмінаў выкладаліся камісіяй у прадмовах да выпускаў «Беларускай навуковай тэрміналогіі». Асноўным з іх было выкарыстанне сродкаў беларускай мовы і ў першую чаргу існуючай агульнаўжывальнай лексікі. Запазычванне тэрмінаў як спосаб фарміравання беларускай тэрміналогіі выкарыстоўвалася Навукова-тэрміналагічнай камісіяй дыферэнцыравана. Найбольшы працэнт запазычаных слоў у фізіка-тэхнічным, матэматычным, геалагічным, музычным выпусках (40—50 %) і толькі каля 15 % — у сельскагаспадарчым, батанічным і грамадазнаўчым. Увогуле ж камісія ставілася да запазычанняў з асцярожнасцю. Большасць тэрміналагічных зборнікаў змяшчаюць у сярэднім да 70 % іншамоўных тэрмінаў ад ліку іх у рускай частцы. Значная частка запазычанняў прыведзена ў якасці варыянтаў да беларускіх назваў.

Значная праца па стварэнні беларускай навуковай тэрміналогіі была праведзена па-за межамі Інбелкульта. Толькі на працягу 1923—27 гг. былі выдадзены такія даведнікі, як «Слоўнік геаметрычных і трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў (Руска-беларускі і беларуска-рускі)» К. Душ-Душэўскага і В. Ластоўскага (Коўна, 1923), «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік» З. Верас (Вільня, 1924), «Спіс назваў птушак і некаторых рыб» А. В. Фядзюшына (Мн., 1925), «Дзелавод. Узоры афіцыяльных папер, слоўнік тэхнічна-канцылярскіх выразаў і іншыя патрэбныя ў дзелаводстве веды» С. Серады (Мн., 1926), «Расійска-беларускі слоўнічак дзеля чыгуначных мясцкомаў» Л. Вашкевіча (Магілёў, 1926), «Беларускія назвы раслін» М. М. Ганчарыка (Працы навуковага таварыства па вывучэнню Беларусі. 1927. Т. 2) і інш.

Пасля стварэння Інстытута мовазнаўства АН БССР (1929) была разгорнута работа па ўкладанні больш вузкіх тэрміналагічных слоўнікаў. У 1932 г. выдадзены першы выпуск «Слоўніка тэхнічнай тэрміналогіі» (аўтар А. Гурло), у 1933 г.— «Ваенны руска-беларускі слоўнік». Распрацоўку тэрміналагічных выданняў планавалася прадоўжыць, але, на жаль, жорсткія рэпрэсіі, якія разгарнуліся ў сярэдзіне 1930-х гадоў, работу ў гэтым кірунку спынілі.

Вялікі тэрміналагічны матэрыял, распрацаваны Навукова-тэрміналагічнай камісіяй, дазволіў у сярэдзіне 30-х гадоў распачаць падрыхтоўку Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Толькі на працягу 1935 г. было падрыхтавана 15 праектаў энцыклапедычных слоўнікаў па важнейшых галінах навукі. Аднак і гэта пачынанне беларускіх вучоных было спынена.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе ў рэспубліцы не было агульнага цэнтра па распрацоўцы і ўпарадкаванні тэрміналагічнай лексікі.

Значную ролю ў нармалізацыі беларускай тэрміналогіі адыгралі «Руска-беларускі слоўнік» (1953) і «Беларуска-рускі слоўнік» (1962). Змешчаныя ў іх найбольш распаўсюджаныя спецыяльныя тэрміны дапамагалі чытачу ў працы над грамадска-палітычнай, навуковай і мастацкай літаратурай. У значна большым аб'ёме прадстаўлена тэрміналогія ў пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (1977—84) і двухтомным «Руска-беларускім слоўніку» (1982).

Упарадкаванне навуковай тэрміналогіі ўключае 2 асноўныя аспекты: сістэматызацыю і ўдакладненне навуковых паняццяў і тэрмінаў (спецыяльна-навуковае, змястоўнае ўпарадкаванне) і сістэматызацыю іх моўнага афармлення (лінгвістычнае ўпарадкаванне). Гэтыя аспекты звязаны між сабой на аснове той агульнай сувязі, якая існуе паміж мысленнем і мовай, паняццем і словам.

Першачарговай задачай пры ўпарадкаванні беларускай тэрміналогіі з'яўляецца вывучэнне практыкі ўжывання тэрмінаў у навуковых тэкстах і выданне слоўнікаў. Не страчвае актуальнасці і праблема папаўнення паняційна-тэрміналагічнага фонду, прывядзенне яго ў адпаведнасць з узроўнем развіцця сучаснай навукі. Для вырашэння гэтых задач створана Рэспубліканская тэрміналагічная камісія (гл. **Тэрміналагічныя камісіі**).

*Літ.:* Антонюк Л. А. Белорусская научная терминология: (Формирование, структура, функционирование). Мн., 1987; Красней В. П. Лексіка-семантычная характарыстыка беларускай тэрміналагічнай лексікі пачатку XX ст. // Беларуская мова. Мн., 1981. Вып. 9; Гуліцкі М. Ф. Беларуская савецкая тэрміналагічная лексікаграфія (20—30-я гады) // Беларуская мова. 1980. Вып. 7; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984; Вопросы терминологии: (Материалы Всесоюзного терминологич. совещания). [25—29 мая 1959 г.]. М., 1961; Канделаки Т. Л. Семантика и мотивированность терминов. М., 1977.

*Л. А. Антанюк.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Родная мова...*
*Нас ёй вучылі*
*Цёплыя маміны рукі ў маршчынах,*
*Вусны каханага, песні спачыну,*
*Боль у вачах адзінокай жанчыны,*
*Сны і бяссонне пад спеў салаўіны,*
*Даўнія, горкія бацькі ўспаміны...*
*Несці нашчадкам мне ў сэрцы даччыным*
*Матчыну мову, мову Айчыны.*

Таіса Бондар



**У** — *дваццаць першая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай* Ѵ *(«іжыца»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай* γ *(«іпсілон»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала галосны гук* у *пасля цвёрдых зычных* (гумно, рука), *у пачатку слоў ужывалася ў складзе дыграфа* оу (оужъ, оумети). *Мела таксама лічбавае значэнне «чатырыста». Паралельна з ёй для абазначэння гука* у *на раннім этапе развіцця старабеларускага пісьменства выкарыстоўвалася літара* Ѫ *(«юс вялікі»):* мѪжъ, сѪдъ, *пазней* — Ȣ *(«ук»):* гȢба, перȢнъ. *У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) літара* у *ўжывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае лабіялізаваны галосны гук* у *задняга рада верхняга пад'ёму пасля цвёрдых зычных і ў пачатку слоў* (думка, уваход), *пасля галосных перад зычнымі ў запазычаных словах* (ва універсітэце). *Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (УВЧ). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дваццаты» (група «У»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 8у).*

*А. М. Булыка.*

## УКРАІНСКАЯ МОВА

Украінская мова — нацыянальная мова ўкраінскага народа, асноўнага насельніцтва Украіны. Належыць (разам з рускай і беларускай мовамі) да ўсходняй падгрупы славянскай групы індаеўрапейскай сям'і моў. Адна з найбольш пашыраных моў свету. Паводле перапісу 1979 г. ў былым СССР украінскую мову лічылі роднай 35 059 139 чалавек (у тым ліку на Украіне 32 493 647, на Беларусі 100 192). Акрамя таго, гэтай мовай карыстаюцца каля 3 млн. чалавек у ЗША, Канадзе, Бразіліі, Аргенціне, Аўстраліі, Новай Зеландыі, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Югаславіі, Румыніі, Венгрыі, Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі і інш. Украінская мова, таксама як беларуская і руская, сфарміравалася на базе тэрытарыяльных дыялектаў агульнаўсходнеславянскай мовы. Асноўныя рысы яе фанетычнай сістэмы і граматычнага ладу склаліся да 14 ст. Асобныя з іх зафіксаваны ў пісьмовых помніках 12 ст. («Жыціе Феадосія Пячэрскага», «Галіцкае евангелле», «Дабрылава евангелле»). Існуюць і іншыя версіі паходжання ўкраінскай мовы. М. Грушэўскі, С. Смаль-Стоцкі, І. Агіенка і інш. лічаць, што яна ўзнікла недзе ў 6 ст. нашай эры на аснове ўсходняга дыялекту праславянскай мовы; М. Пагодзін, А. Сабалеўскі, П. Лаўроўскі разглядалі яе як пазнейшы дыялект рускай (велікарускай) мовы; А. Шахматаў лічыць, што яна ўзнікла прыкладна к 9 ст.; М. Мар у працы «Яфетычныя зоркі на ўкраінскім хутары» (1930) адзначаў яе генетычную сувязь са старажытнымі «яфетычнымі мовамі» народаў Міжземнамор'я.

Сучасная размоўная украінская мова складаецца з 3 дыялектаў: паўночнага, паўднёва-заходняга і паўднёва-ўсходняга. Гэтыя дыялекты ў сваю чаргу распадаюцца на шэраг гаворак: паўночны на ўсходнепалескія (левабярэжнапалескія), сярэднепалескія (правабярэжнапалескія) і заходнепалескія (валынскапалескія) гаворкі; паўднёва-заходні на падольскія, валынскія, паднястроўскія, букавінскія, гуцульскія, бойкаўскія, закарпацкія, надсянскія і лемкаўскія гаворкі; паўднёва-ўсходні на сярэднепадняпроўскія, слабажанскія і стэпавыя гаворкі.

Нацыянальная літаратурная украінская мова ўтварылася на аснове сярэднепадняпроўскіх гаворак паўднёва-ўсходняга дыялекту, увабраўшы ў сябе многія элементы і іншых украінскіх дыялектаў. Яна характарызуецца наступнымі рысамі: наяўнасць гука *і* на месцы былога *ѣ: дід, ліс, пісня, сіно, тіло*; пераход *е* і *о* ў новазакрытых складах у *і*: *осінь, піч, ніс, ніч, стіл*; зліццё былых гукаў *ы* (задняга рада) і *і* (пярэдняга рада) у адзін *и* (пярэдняга рада верхняга пад'ёму): *син, синій, мило, милий, пирıг, писати*; зацвярдзелымі зычнымі перад *е* і *и*: *перо, небо, листя, ходити, тихий*; захаванне мяккага *ц*: *вулиця, цілувати, палець*; захаванне старых канчаткаў *-ою, -ею* ў творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з былой асновай *-ā-* і *-jā-*: *рікою, ногою, вівцею, землею, душею;* распаўсюджанне канчаткаў *-ові, -еві* ў давальным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду на ўсе назоўнікі незалежна ад іх былой асновы: *другові* (і *другу*), *синові* (і *сину*), *братові* (і *брату*), *кобзареві* (і *кобзарю*); наяўнасць сцягнутых форм прыметнікаў жаночага і ніякага роду ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага і множнага ліку: *блакитна, блакитне, блакитну, блакитні*; ужыванне канчатка *-мо* ў дзеясловах першай асобы множнага ліку цяперашняга часу і часткова загаднага ладу: *ідемо, носимо, ходімо* і *ходім*; побач з аналітычнай формай дзеясловаў будучага часу тыпу *буду писати* ўжыванне сінтэтычнай формы тыпу *писатиму*; існаванне паралельных форм лічэбнікаў тыпу *п'яти — п'ятьох, п'яти — п'ятьом, п'ятьма — п'ятьома;* частае ўжыванне злучніка *та* ў злучальнай і далучальнай функцыях: *Реве та стогне Дніпр широкий* (Т. Шаўчэнка); *Були зі мною сум і самота Та ще й нудьга й докука, нібы сестри* (В. Сіманенка).

Украінская мова з'ўляецца стара-

пісьмовай. Яе найбольш старажытнымі пісьмовымі помнікамі лічацца граматы 14—15 ст. З канца 16 да сярэдзіны 18 ст. існавала стараўкраінская літаратурная мова ў 2 варыянтах: так званая славянаруская, сферай выкарыстання якой была галоўным чынам рэлігійна-культавая літаратура, і ўласна ўкраінская кніжная мова на жывой народнай аснове, сферай выкарыстання якой былі афіцыйнае справаводства, летапісанне і мастацкая творчасць. Нармалізацыі абодвух варыянтаў спрыялі граматыкі Л. Зізанія (1596), М. Сматрыцкага (1619) і шматлікія слоўнікі (самы значны «Лексікон славенароскі...» П. Бярынды, 1627). У 2-й палове 18 ст. пад уплывам размоўнай мовы і фальклору старая літаратурная ўкраінская мова прыйшла ў заняпад. Заснавальнікам новай літаратурнай украінскай мовы з'яўляецца І. Катлярэўскі (канец 18 — пачатак 19 ст.). Яго традыцыі развівалі Г. Квітка-Аснаўяненка, П. Гулак-Арцямоўскі, Я. Грабінка, Я. Галавацкі, М. Шашкевіч. Канчатковае яе станаўленне адбылося дзякуючы творчасці Т. Шаўчэнкі, а замацаванне ў агульнанароднай камунікатыўнай практыцы — у творчасці, навуковай і грамадска-палітычнай дзейнасці П. Куліша, П. Мірнага, М. Драгаманава, І. Франко, Л. Украінкі, М. Кацюбінскага, В. Віннічэнкі, М. Грушэўскага, П. Жыцецкага, А. Крымскага і інш. На працягу некалькіх стагоддзяў украінская мова развівалася ў неспрыяльных умовах дзяржаўнага раз'яднання ўкраінскага народа. Асабліва адчувальнай была афіцыйная забарона ўжываць яе на тэрыторыі Расійскай імперыі (указы Пятра І, Аляксандра ІІ, цыркуляр міністра ўнутраных спраў Валуева 1863). Пасля 1917 г. украінская мова атрымала магчымасць свабоднага развіцця, але ненадоўга. З пачатку 1930-х і да сярэдзіны 80-х гадоў, як і мовы многіх іншых народаў былога СССР, украінская мова апынулася на мяжы заняпаду, паколькі лічылася «бесперспектыўнай», а таму яе выкарыстанне ў сферах грамадскага жыцця, асабліва асвеце і дзяржаўным кіраванні, было абмежаваным. За правы ўкраінскай мовы актыўна змагаліся А. Даўжэнка, У. Сасюра, А. Малышка, А. Ганчар, Дз. Паўлычка, І. Дзюба і інш. У лютым 1989 г. створана рэспубліканскае Таварыства ўкраінскай мовы імя Т. Шаўчэнкі «Просвіта», мэтай якога з'яўляецца адраджэнне роднага слова.

Украінская мова генетычна і структурна вельмі блізкая да беларускай мовы. Можна прасачыць наступныя агульныя рысы: пераход *л* у *в (ў)* у былых пазіцыях tъlt, tьlt: *вовк — воўк, довгий — доўгі, повний — поўны;* наяўнасць гукаспалучэнняў *ри, ли — ры, лы(лі)* у былых ненаціскных пазіцыях trъt, tlъt, tlьt: *кривавий — крывавы, глитати — глытаць, блищати — блішчэць*; падаўжэнне мяккіх зычных на месцы ранейшага спалучэння *ьј* у канцы слоў: *весілля — вяселле, життя — жыццё, суддя — суддзя*; зліццё двух прыназоўнікаў (а адпаведна і прыставак) *съ* і *изъ* у адзін *з*; чаргаванне *в(ў)* з *у*, а таксама *і* з *й*: *він [і] де в школу, ён [і] дзе ў школу, вони [й] дуць у школу — яны [й] дуць у школу*; ужыванне ў некаторых словах, якія гістарычна пачыналіся з галосных, прыстаўных *в* і *г*: *вулиця — вуліца, вуж — вуж, гарбуз — гарбуз, гострий — гостры* (і *востры*); захаванне клічнай формы назоўнікаў: *сину — сыну, брате — браце*; страта канчатка *ть* у 3-й асобе дзеясловаў адзіночнага ліку цяперашняга і будучага часу перад суфіксам асновы *-е* і захаванне той самай флексіі перад суфіксам асновы *-і-*: *несе — нясе, понесе — панясе,* але *ходить — ходзіць, походить — паходзіць*; чаргаванне *г, к, х, з з, ц, с* у склонавых формах назоўнікаў: *дорога, дарога — на дорозі, на дарозе, рука, рука — в руці, у руцэ, муха, муха — мусі, мусе*; чаргаванне *г з ж і к з ч* у формах 2-й асобы адзіночнага ліку загаднага ладу: *біжи — бяжы, печи — пячы.*

У айчынным мовазнаўстве вядома спрэчнае меркаванне пра тое, што ў 14—16 ст., калі Украіна і Беларусь уваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, сфарміравалася агульная ўкраінска-беларуская літаратурна-пісьмовая мова (так званая «руская мова»), якая выконвала ролю афіцыйнай мовы. Значны ўплыў на гэту мову зрабілі жывыя ўкраінская і беларуская народныя мовы, што адлюстроўваюць помнікі таго часу.

У сучаснай украінскай мове ўжываюцца некалькі слоў, якія, як лічаць вучоныя, маюць беларускае паходжанне: *бадьорий, бурчати, гудити, дьоготь, жлукто, щила.* Асобныя лексічныя беларусізмы бытуюць і ва ўкраінскіх гаворках: *мазгавня, зекатий* у правабярэжнапалескіх, *сябро, тутейший* у стэпавых, *ляда* ў левабярэжнапалескіх.

Розным пытанням гісторыі ўкраінскай мовы, яе структуры, а таксама ўкраінска-беларускім моўным сувязям прысвечаны работы многіх беларускіх лінгвістаў (Я. Карскі, У. Анічэнка, М. Булахаў, А. Жураўскі, А. Супрун, Я. Чарапанава, Л. Шакун, Ф. Янкоўскі і інш.). Вывучэнню ўкраінскай мовы, узмацненню цікавасці да яе на Беларусі садзейнічала навуковая і грамадская дзейнасць украінска-беларускага філолага П. Бузука.

*Літ.:* Сучасна українська літературна мова. Т. 1—5. Київ, 1969—73; Історія української мови: Морфологія. Київ, 1978; Історія української мови: Фонетика. Київ, 1979; Чабаненко В. А. Експресивно-стилістичні функції білорусизмів в українській мові // Культура слова. Київ, 1979. Вип. 17; Історія української мови: Лексика і фразеологія. Київ, 1983; Бевзенко С. П. Українська діалектологія. Київ, 1980; Словник української мови. Т. 1—11. Київ, 1970—80; Лемцюгова В. П. Украінска-беларускі слоўнік. Мн., 1980; Анічэнка У. В. Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі. Мн., 1969; Жураўскі А. І. Некаторыя пытанні беларуска-ўкраінскіх моўных сувязей старажытнага перыяду // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1966. № 2; Огієнко І. І. Розмежування пам'яток українських від білоруських // Зап. чина св. Василія Великого. Львів, 1930. Т. 6, вип. 1—2.

*В. А. Чабаненка.*

## УЛАСНАБЕЛАРУСКАЯ ЛЕКСІКА

Словы, якія ў пэўнай ступені вызначаюць нацыянальную спецыфіку слоўніка беларускай мовы, выяўляюць яе адметнасць і непаўторнасць, вылучаюць сярод іншых славянскіх моў. Яны розныя паводле паходжання. Адны словы ўзніклі ў часы самастойнага існавання беларускай мовы — у старажытнабеларускі перыяд, калі адбывалася фарміраванне мовы беларускай народнасці (14—18 ст.), другія — у перыяд, калі складваліся нормы беларускай нацыянальнай мовы (19—20 ст.). Да ўласнабеларускіх адносяцца і многія праславянскія і агульнаўсходнеславянскія лексемы, якія ў сучаснай рускай мове не ўжываюцца або вядомы як устарэлыя, вузкамясцовыя ці стылістычна абмежаваныя. Такімі з'яўляюцца назоўнікі *абрус, вежа, волат, вязьмо, гадзіна, золь, кажух, краіна, лазня, ляда, надзея, палетак, постаць, снеданне, статак, туга,* дзеясловы *апераэаць, бараніць, жаліцца, згубіць, клікаць, рабіць, туліцца, учыніць.* Некаторыя з гэтых слоў у беларускай мове змянілі сваю семантыку. Так, назоўнік *абрус (обрусъ)* у агульнаўсходнеславянскай мове меў значэнне 'хустка, ручнік', у сучаснай беларускай — 'настольнік'. Назоўнік *статак (статъкъ)* абазначаў маёмасць, спадчыну. З такім значэннем ён сустракаецца яшчэ ў помніках старажытнабеларускага пісьменства (*...жона и дъти и статкы женьни отъ того порожни* — «Судзебнік», 1468), але ўжо з сярэдзіны 16 ст. ў ім пачынае пераважаць значэнне 'гурт свойскай жывёлы' (*будеть ли то властный дворъ его старый и статки его* — АЗР, 1610), з якім ён дайшоў да нашага часу. Змянілі пачатковую семантыку словы *варажбіт* (у старажытнарускай мове яно мела значэнне 'вораг'), *благі, буйны, лічыць* (старое значэнне 'выкрываць'), *злодзей* (першапачаткова 'злачынец'), *смутны.* У беларускай мове раней, чым у рускай, адбыліся семантычныя зрухі ў слове *жывот* (першапачаткова 'жыццё'). Гістарычны слоўнік беларускай мовы фіксуе 7 значэнняў гэтага слова ў старажытнабеларускай мове, у тым ліку і сучаснае яго значэнне 'частка цела чалавека і жывёлы'. [*...вышли*

*суть из живота матери его* (Скарына)].

Вельмі многія агульнаславянскія і ўсходнеславянскія лексемы на працягу гістарычнага развіцця набылі спецыфічна беларускае фанетычнае аблічча. Іх адрозніваюць ад адпаведных рускіх слоў прыстаўныя галосныя і зычныя: *аржаны, імгла, вольха, вось;* склады *ры, лы* на месцы *ръ, лъ, рь, ль* (у рускай мове спалучэнні *ръ, лъ, рь, ль* далі *ро, ло, ре, ле*): *грымець, дрыжаць, крывавы, крышыць, трывога;* поўнагалоссе — там, дзе ў рускай мове яно адсутнічае: *агароджа, загарадзіць, вораг, пасярод, прахалода, салодкі.*

Уласнабеларускімі трэба лічыць і словы, утвораныя ад агульнаславянскіх каранёў з выкарыстаннем тыповых для беларускай мовы словаўтваральных сродкаў: суфіксаў *-к- (вестка, пустка, частка), -ак (панядзелак, аўторак, смутак), -ар (карчмар, млынар), -ач (глядач), -ц- (забойца, творца), -б- (сядзіба, сяўба),* прыставак *за- (загінуць, загубіць), з- (збегчы, змерацъ, знайсці).*

У перыяд самастойнага існавання беларускай мовы (з 14 ст.) пачынаюць узнікаць словы з беларускімі каранёвымі марфемамі. Словы бытавой, сямейнай, сельскагаспадарчай лексікі, назвы розных якасцей, дзеянняў і працэсаў трапляюць у старажытнабеларускую мову з народных гаворак. У помніках 15—17 ст. звычайнымі становяцца назоўнікі *адпачынак, ахвяра, бацька, бусел, бліскавіца, гук, жніво, збожжа, здрада, змова, кропля, страва, хвароба, твар,* прыметнікі *адпаведны, апошні, асаблівы, драпежны, дужы, заможны,* дзеясловы *здарыцца, сачыць, спаткаць, трымаць,* прыслоўі *адсюль, датуль, пакуль, тады,* злучнікі *або, але,* часціца *няхай.*

Трапіўшы ў пісьмовыя помнікі, старажытнабеларускія словы паступова выцясняюць праславянскія. Так, паводле М. Г. Булахава, сямейны тэрмін *бацька* — суфіксальнае ўтварэнне ад праславянскага **bat(j)a* — ў беларускай мове 14—17 ст. быў адным з асноўных канкурэнтаў слова *отецъ* у дзелавых дакументах, мова якіх у прамой або ўскоснай форме перадавала жывую гутарку беларусаў. Ужо ў 14 ст. пачаў ужывацца дзеяслоў *будаваць (будовати).* Замест дзеяслова *видети* з 15 ст. шырока бытуе дзеяслоў *бачыць (бачити),* замест *следити — сачыць (сочити).*

У старажытнабеларускі перыяд узнікае вялікая колькасць грамадска-палітычных, юрыдычных і вайсковых тэрмінаў, якія адлюстроўваюць жыццё Вялікага княства Літоўскага. Сярод іх уласнабеларускімі з'яўляюцца лексемы *гаспадар* (гаспадаром тады называлі толькі прадстаўніка пануючых класаў, у тым ліку і вялікага князя), *дзяржаўца, рада, улада, урад, зброя, стрэльба* і вытворныя ад іх. Агульнавядомым юрыдычным тэрмінам становіцца ў гэты час беларускае слова *счадокъ (шчадокъ* — 'нашчадак') — 'дзіця, якое мае права спадчыннасці'. Яно прыйшло на змену ўсходнеславянскай лексеме *дедичь* і ўжывалася як сінонім слова *наследокъ.* Папаўняецца разрад абстрактнай лексікі *(бачанне, брыдкасць, прыкрасць, хцівасць)* і навуковай тэрміналогіі, асабліва пачынаючы з выданняў Францыска Скарыны. Уласнабеларускімі лічацца словы *вучань, настаўнік* (з канца 15 ст.), *мова* і іншыя.

Некаторыя беларускія словы супадаюць з украінскімі: *асабовы, выклад, гук, дакуль, дужка, жахлівы, заява, звыклы, калі, кволы, пераказ, пераклад, развага, спагадлівы, склад* і іншыя. Ёсць у беларускай мове словы, агульныя з украінскімі і польскімі *(гоман, бруд, дарэмна, драбіна, звычай, караць, крок, крыўда, размова, хмара, шлюб),* што тлумачыцца асаблівасцямі гістарычнага развіцця гэтых народаў.

Варта адносіць да ўласнабеларускіх даўнія запазычанні нашай мовы з польскай і літоўскай моў (або праз іх), якія поўнасцю асіміляваліся ў ёй і як запазычаныя не ўспрымаюцца: *атожылак, віншаваць, выбачаць, водар, вырай, ганьба, гойны, гонар, дробязь, жвавы, зайздросціць, кава, каліва, каснік, каўнер, кветка, конаўка, кратаць, мара, пуня, скіба, шпак.*

Беларускімі лексемамі новага перыяду (19—20 ст.) з'яўляюцца, папершае, вялікая колькасць слоў, утвораных паводле вядомых са старажытных часоў словаўтваральных мадэляў з дапамогай беларускіх дэрывацыйных сродкаў (гл. **Словаўтварэнне**), па-другое, шматлікія калькі пераважна з рускай, а часам і з польскай моў (гл. **Калькі**). Да першых адносяцца словы грамадска-палітычнай, прамысловай, адміністрацыйнай і іншай тэрміналагічнай лексікі, што адлюстроўвалі новыя, капіталістычныя адносіны ў Расійскай дзяржаве, да якой у 1795 г. былі далучаны беларускія землі, і словы, узнікненне якіх звязана з узмацненнем нацыянальна-вызваленчага руху і пашырэннем асветы і адукацыі на пачатку 20 ст. *(абвестка, будучыня, выдавецтва, грамадзянскі, кнігарня, мужыцтва, нарада, напрамак, незалежнасць, падатак, пазыка, пясняр, прыхільнік, уласнік).* Прыкладамі другіх могуць быць калькі з рускай мовы *атаясамліваць, выпрабавальнік, вытворчасць, выяўленчы, даследчык, другасны, літаральна, невычэрпны, пазнавальны, супрацоўніцтва, увасабляць,* з польскай — *паведамляць, падтрымліваць, штукарства.*

За кошт калькавання папаўняецца разрад складаных слоў тыпу *адначасова, красамоўства, рукапіс, самаабарона, цемрашал.*

Стварэнне ўласнабеларускіх слоў працягвалася і ў перыяд беларусізацыі 1920-х гадоў. Гэта пераважна навуковыя тэрміны па розных галінах навукі: лінгвістычныя [*азначальны* (сказ), *акалічнасць, зваротак, пытальнік*], батанічныя *(голанасенныя, павойныя, суквецце),* філасофскія *(прастора, уяўны* і інш.). У пазнейшыя часы — гэта наватворы пісьменнікаў і ўведзеныя імі ў мастацкія творы дыялектныя словы і выразы: *пераляк* (У. Дубоўка), *перапуд* (А. Астрэйка), *даймець, кідкі* (І. Мележ), *пошум* (Р. Сабаленка).

Такія характарыстычныя народныя словы, як *вернік, вясёлка, гадунец, маладзік, поўня, знічка, немаўля, неруш, пястун, нядзелькаваць, палуднаваць, ветрыць, доўжыць, гамана, нагбом, усутыч,* а таксама назвы грыбоў і ягад, месяцаў, многія геаграфічныя назвы з'яўляюцца нацыянальным здабыткам нашай мовы, робяць яе выразнай, сакавітай і вельмі вобразнай.

*Літ.:* Булахаў М. Г. Старабеларускія назвы роднасці і сваяцтва//З жыцця роднага слова. Мн., 1968; Анічэнка У. В. Мовы ўсходніх славян. Мн., 1989; Крамко І. І. Развіццё лексічнай сістэмы беларускай мовы ў XIX — пачатку XX ст.//Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970; Булыка А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мн., 1972; Яго ж. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мн., 1980; Баханькоў А. Я. Уласнабеларускія неалагізмы савецкага часу//Бел. лінгвістыка. Мн., 1980. Вып. 17. *В. М. Емельяновіч.*

## УЛАСНАЕ ІМЯ

У кожнай мове ёсць спецыяльны клас імён уласных, якія многімі рысамі проціпастаўляецца класу імён агульных. Імя ўласнае называе асобны аб'ект, выдзяляе яго з кола аднародных прадметаў *(Полацк, Вілія, Свіцязь)* і, як правіла, адносіцца да аднаго індывідуальнага аб'екта прыроды, асобы, жывёліны, прадмета, з'явы. Імя агульнае, наадварот, называе цэлы клас аднародных прадметаў: *дарога, дрэва, знічка, цвік, чалавек.* Таму ўласных імён намнога больш, чым агульных. Але абазначэнне адзінкавага прадмета яшчэ не гарантуе прыналежнасці слова да разраду ўласных імён. Напрыклад, слова *неба* не становіцца ўласным ад таго, што абазначае адзінкавы прадмет, гэтак жа як імя *Алесь* не перастае быць імем уласным ад таго, што ім называюць тысячы людзей. Уласныя імёны адназначныя. Большасць агульных імён мнагазначныя, з семантычнымі зрухамі ў значэннях.

Да класа ўласных імён адносяцца: асабовыя імёны, імёны па бацьку, прозвішчы, псеўданімы, мянушкі людзей *(Антон, Дзяніс, Людміла, Пётр Усцінавіч Бройка, Якуб Колас, Жыгімонт I Стары),* клічкі жывёл *(Віхор, Стрыгун, Рагуля),* назвы геаграфіч-

ных аб'ектаў (р. *Бярэзіна*, балота *Сівы Мох*, сенажаць *Ператорі*), назвы планет, зорак, сузор'яў, галактык (*Венера, Юпітэр, Персей, Геркулес, Спарышы, Млечны Шлях*), індывідуальныя назвы, што прысвойваюцца асобным прадметам, прадпрыемствам, установам, таварыствам, выдавецтвам, творам літаратуры і мастацтва, святам і г. д. (завод *«Інтэграл»*, таварыства *«Бацькаўшчына»*, выдавецтва *«Народная асвета»*, часопіс *«Полымя»*, газета *«Голас Радзімы»*, раман *«Птушкі і гнёзды»*). Асобна стаяць фірменныя знакі, назвы серыйнай вытворчасці, кодавыя найменні (аўтамашына *«Жыгулі»*, трактар *«Беларусь»*, аўтамабіль *«БелАЗ»*, самалёт *ТУ-104*). Некаторыя даследчыкі адносяць іх да класа імён агульных. Найбольш аб'ёмныя класы ўласных імён утвараюць асабовыя імёны людзей і назвы геаграфічных аб'ектаў.

У мове адбываецца пастаяннае ўзаемадзеянне паміж іменамі агульнымі і ўласнымі. Разрад уласных імён папаўняецца за кошт агульных. Здольнасцю быць уласным імем у першую чаргу валодаюць назоўнікі: г. *Рэчыца*, в. *Слабада*, пас. *Рудня*, урочышча *Клін*, мікрараён *Захад*, кінатэатр *«Перамога»*, часопіс *«Беларусь»*. У беларускай мове шмат тапонімаў, утвораных ад прыметнікаў (найчасцей гэта назвы гідрааб'ектаў): р. *Белая*, воз. *Чорнае*, ручай *Грымучы*, г. *Круглае*, пас. *Лясны*, торфапрадпрыемства *Беразінскае*, вул. *Батанічная*. Звычайныя для беларускай тапаніміі словазлучэнні з прыметнікамі ў ролі азначэння: в. *Зялёная Дуброва*, лес *Вясёлы Гай*, урочышча *Доўгая Паляна*, раман *«Снежныя зімы»*. Агульныя імёны трансфармуюцца ва ўласныя ў нязменным выглядзе (в. *Клін*, в. *Гарадок*, лес *Ляшчына*), або выступаюць у якасці лексічнай асновы, да якой далучаюцца суфіксы і прэфіксы (вёскі *Бярозаўка, Загоранка, Забалаць, Прылукі*). Частка назваў утвараецца спосабам асноваскладання: г. *Светлагорск*, г. *Салігорск*, в. *Наваельня*, пас. *Асінторф*. Шматлікія назвы паселішчаў, палёў, сенажацяў узыходзяць да ўласных імён людзей, іх прозвішчаў, мянушак (пас. *Ждановічы*, в. *Ліцьвінаўка*, в. *Фаніпаль*, пас. *Мар'іна Горка*), да ўласных імён рэк і азёр (вёскі *Вяча, Лоша, Неманіца, Ячонка*). У разрад тапонімаў пераходзяць і назвы людзей паводле іх нацыянальнай прыналежнасці, роду заняткаў і інш. (вёскі *Татары, Палякі, Кавалі, Рамізнікі, Шорнікі*). У склад наймення аб'екта можа ўваходзіць яго агульная назва: *«Народная газета»*, *Камароўскі рынак*. Многія запазычаныя асабовыя імёны суадносяцца з агульнымі: *Кірыла* (грэч. 'уладар, гаспадар'), *Анатоль* (грэч. 'усход, усход сонца'), *Віктар* (лац. 'пераможца'), *Рэгіна* (лац. 'царыца'), *Соф'я* (грэч. 'мудрасць', 'навука'), *Зоя* (грэч. 'жыццё').

Уласныя імёны могуць часткова або поўнасцю перайсці ў агульныя. Напрыклад, функцыю агульнай назвы набылі: літаратурны персанаж *Гарлахвацкі*, назва французскага курортнага горада *Пламб'ер*, дзе ўпершыню было прыгатавана марожанае са смятанкі, фруктаў, ягад, цукатаў і крэму (пламбір) і інш. Ад назвы горада *Бардо* ў Францыі ўзнікла назва колеру *бардо*, ад прозвішчаў людзей *Ампер, Байкот*, утвораны *ампер* 'адзінка сілы току', *байкот* 'метад барацьбы'. Геаграфічныя назвы часта служаць асновай для ўтварэння агульных назваў. Напрыклад, назвы асобных геалагічных пластоў, археалагічных культур утвараюцца на аснове тых аб'ектаў, у межах якіх гэтыя пласты залягаюць: *паўночнадзвінскі ярус, сярэднедняпроўская культура*. Для агульных назваў філасофскіх кірункаў ці школ асновай часта становяцца імёны і прозвішчы іх заснавальнікаў: *Гандзі — гандызм, Кант — кантыянства, Маркс — марксізм*. Да ўласных геаграфічных назваў і асабовых імён людзей нярэдка ўзыходзяць таварныя знакі — фотаапарат *«Вілія»*, секцыя *«Заслаўе»*, аўтамабіль *«Форд»*, самалёт *«Дуглас»*.

Назвы адных класаў уласных імён могуць пераходзіць у назвы другіх класаў. Напрыклад, назвы рэк і азёр становяцца назвамі паселішчаў: ст. *Бобр*, ст. *Пціч*, г. *Прыпяць*, в. *Нача*, (усё ад назваў рэк). Прозвішчамі грамадскіх дзеячоў, вучоных, пісьменнікаў і г. д. названы гарадскія вуліцы: праспект *Францыска Скарыны*, вул. *К. Каліноўскага*, вул. *Петруся Броўкі*.

Ад уласных імён утвараюцца вытворныя прозвішчы людзей у форме прыналежных прыметнікаў — *Антонаў, Фамін* ад *Антон, Фама*; прыметнікі адносныя — *нарачанскі край, купалаўскі радок*, назвы жыхароў па месцы жыхарства — *бабруйчане, пінчукі* і інш.

Для афармлення ўласных імён у кожнай мове гістарычна складваюцца спецыфічныя іменаўтваральныя сродкі — суфіксы, прэфіксы, мадэлі слоў, якія замацоўваюцца за айконімамі (уласнымі назвамі паселішчаў), гідронімамі, мікратапонімамі (назвамі дробных геаграфічных аб'ектаў), антрапонімамі (асабістымі найменнямі людзей) і інш. Напрыклад, для беларусаў асабліва характэрны прозвішчы, утвораныя на базе агульных імён без дадатковай афіксацыі (*Грыб, Вечар, Жук, Мядзведзь*), і на *-іч, -овіч, -евіч* (*Ганіч, Акаловіч, Насовіч, Бялькевіч*). Сваёй структурай і формай уласнае імя можа вызначыць таксама і тып аб'екта. Напрыклад, элементы *-град, -аў, -ін, -ск* на канцы — тыповая адзнака назваў паселішчаў гарадскога тыпу, *-ічы, -оўка, -шчына* — назваў паселішчаў сельскага тыпу, *-ка, -інка, -іца* — рачных назваў.

*Літ.:* Суперанская А. В. Общая теория имени собственного. М., 1973; Имя нарицательное и собственное. М., 1978; Шур В. З гісторыі ўласных імёнаў. Мн., 1993.

*В. П. Лемцюгова.*

## УСТАРЭЛЫЯ СЛОВЫ

Устарэлыя словы — лексічныя адзінкі, якія выйшлі з актыўнага складу лексікі і зрэдку ўжываюцца ў сучаснай мове: *баярын, прыгон, паншчына, цівун, губернатар, вярста, саха, конка, шляхціц, шкаляр, камбед, нарком* і інш. Сэнс большасці такіх слоў зразумелы кожнаму. Знікненне з ужытку слоў і асобных іх значэнняў — складаная з'ява, вынік працяглага працэсу, калі слова з актыўнага слоўнікавага запасу пераходзіць у пасіўны, робіцца ўстарэлым і праз пэўны час выходзіць са слоўнікавага складу сучаснай мовы, становіцца старажытным. Некаторыя з такіх слоў пакінулі свае «сляды» ў аднакарэнных вытворных словах сучаснай мовы: *стрый* (дзядзька па бацьку) — *стрыечны, лепа* (добра) — *лепшы*; у фразеалагізмах, дзе значэнне іх як асобных слоў сціраецца: *пыталь* раней абазначала машыну для пытлявання пшаніцы (*даць пытлю*), *кол* — невялікі ўчастак ворнай зямлі, надзел каля хаты (*ні кала ні двара*).

Устарэлыя словы часам узнаўляюцца ў мове і з пасіўнага запасу пераходзяць у актыўны слоўнік. Напрыклад, пасля 1917 г., пры новым грамадскім ладзе, многія словы выйшлі з ужытку, аднак праз пэўны час некаторыя з іх зноў вярнуліся ў актыўны склад лексікі: *міністр, адмірал, генерал, палкоўнік, сяржант, яфрэйтар, гвардыя, салдат, пагоны, прапаршчык, мічман, ліцэй, гімназія* і інш. Архаізацыя слоў не звязана з іх паходжаннем: у разрад устарэлай лексікі пераходзяць як спрадвечнабеларускія словы (*рала, раме, травень, чало* і інш.), так і запазычаныя (*асэсар, атрамант, цытрына, тастамент* і інш.). Словы выходзяць з актыўнага ўжытку і становяцца ўстарэлымі па розных прычынах. Адны з іх сталі ўстарэлымі таму, што ў выніку няспыннага развіцця грамадства зніклі асобныя прадметы, з'явы рэчаіснасці, а разам з імі зніклі і іх назвы. Другія словы зрабіліся ўстарэлымі, таму што замест іх у мове з'явіліся іншыя назвы. У залежнасці ад гэтага ўстарэлыя словы падзяляюцца на гістарызмы і архаізмы.

Гістарызмы — словы, якія называюць рэчы, з'явы, што выйшлі з ужытку, «сталі гісторыяй». Гэта пераважна назвы прадметаў старога побыту: *лучнік* (прыстасаванне трымаць лучыну), *каганец*; назвы старажытнага адзення: *аблавуха, армяк, бурнос, каптур, намітка*; словы з са-

цыяльна-палітычнай сферы: *баярын, веча, магнат, лёкай, цівун, стражнік,ураднік, соцкі, жандар;* словы з ваеннай лексікі: *рэкрут, ротмістр, стралец, мушкет, шчыт, пішчаль;* назвы старых мер вагі і даўжыні: *фунт, асьміна, гарнец, аршын, локаць, вярста, валока, дзесяціна, капа, сажань;* назвы грашовых адзінак: *грыўня, грош, талер, дукат, кацярынка, керанкі* і інш. Гістарызмы не маюць сінонімаў у сучаснай мове. Некаторыя гістарызмы з'явіліся ў мове зусім нядаўна, ужо ў савецкі час: *губком, камбед, нэп, лікбез, камкор* і інш. Аднак зніклі паняцці, а разам з імі зніклі з актыўнага ўжытку і словы, якія іх называлі.

Архаізмы (ад грэч. árchaios стaрадаўні, устарэлы) — даўнейшыя назвы прадметаў і з'яў, якія існуюць і ў наш час, але ў працэсе развіцця мовы былі названы іншымі словамі — сінонімамі. Калі гістарызмы — назвы ўстарэлых рэчаў і з'яў, то архаізмы — устарэлыя назвы рэчаў і з'яў, якія існавалі раней і існуюць у наш час. Адрозніваюць 2 тыпы архаізмаў — лексічныя і семантычныя. Сярод лексічных архаізмаў выдзяляюць уласналексічныя, лексіка-словаўтваральныя і лексіка-фанетычныя.

Уласналексічныя архаізмы цалкам адрозніваюцца ад сучасных назваў, яны выцясняюцца з мовы словамі іншага кораня: *атрамант* — чарніла, *лемантар* — буквар, *чало* — лоб, *тлумач* — перакладчык.

Лексіка-словаўтваральныя архаізмы — устарэлыя словы, якія маюць аднолькавы корань з сучаснымі назвамі, але адрозніваюцца суфіксамі ці прыстаўкамі: *абставы* — абставіны, *дзейца* — дзеяч, *лятун* — лётчык, *матацыклет* — матацыкл, *прасвета* — асвета.

Лексіка-фанетычныя архаізмы адрозніваюцца ад адпаведных ім сучасных слоў адным-двума гукамі: *гімнасія* — гімназія, *кроніка* — хроніка, *часопісь* — часопіс, *філёзофія* — філасофія, *Эўропа* — Еўропа.

Сустракаюцца выпадкі, калі слова актыўна выкарыстоўваецца ў сучаснай мове, але асобнае яго значэнне (значэнні) выходзіць з ужытку, становіцца ўстарэлым. Гэта — семантычныя архаізмы. Напрыклад, у слове *дружына* ўстарэлае значэнне (семантычны архаізм) — 'група прыбліжаных князя, якая складала яго войска і прымала ўдзел у кіраванні княствам'; у слове *двор* — значэнне 'маёнтак'; у слове *калаўрот* — 'прылада, прыстасаванне прасці кудзелю, воўну'; у слове *камора* — 'кантрольны пункт лясніцтва ў дарэвалюцыйны час'.

У сучасных мастацкіх творах устарэлыя словы (гістарызмы і архаізмы) ужываюцца з пэўнай стылістычнай мэтай (іх часам называюць гістарызмамі і архаізмамі стылістычнага ўжывання). У творах на гістарычную тэматыку яны выкарыстоўваюцца для ўзнаўлення гістарычных абставін пэўнай эпохі і мовы герояў. Такую ролю гістарызмы і архаізмы выконваюць, напрыклад, у мастацкіх творах «След ваўкалака», «Меч князя Вячкі» Л. Дайнекі (эпоха 11—13 ст.), «Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае» А. Лойкі (16 ст.), «Чорны замак Альшанскі» (16 ст.), «Каласы пад сярпом тваім», «Дзікае паляванне караля Стаха» (19 ст.) У. Караткевіча і інш. Некалькі прыкладаў: *На памосце ўжо стаялі епіскап Дзяніс, **пасаднік** Ратша, **тысяцкі** Жыраслаў, найбольш уплывовыя і багатыя **баяры**. «**Лепа** ты зрабіў, вой»,— сказаў Вячка* (Л. Дайнека); [Дубатоўк] *Ім выдзелена ў **тэстаменце** частка спадчыны, бо яны — неад'емная частка **маярату**; Коней сяляне зводзілі ўбок. Гэта былі сапраўдныя палескія **дрыкганты**, парода, ад якой зараз нічога не засталося* (У. Караткевіч).

У мастацкіх творах, дакументах, пісьмовых помніках і інш., напісаных у мінулыя часы, мы сустракаем словы, якія з'яўляюцца ўстарэлымі толькі для нас, а ў час напісання твора, дакумента і г. д. яны актыўна ўжываліся як назвы пэўных прадметаў ці з'яў: *На падлозе насыпаны былі пілавіны, сталы былі пазаліваны **атрамантам** і голыя* (К. Чорны); *Я пашлю Сцёпку, і а дванаццатай спаткаецеся ля дзвярэй **ілюзіёна*** (П. Галавач). Тут устарэлыя словы з'яўляюцца нейтральнымі, яны выконваюць чыста намінатыўную функцыю. Гэта архаізмы і гістарызмы часу.

Устарэлыя словы, якія часта ўжываюцца ў навуковых працах і мастацкіх творах на гістарычную тэму, змяшчаюцца ў тлумачальных слоўніках з паметай *уст.* (устарэлае) або ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы». Гл. таксама **«Актыўная і пасіўная лексіка».**

*Літ.:* Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970; Лябёдка Г. В. Архаізмы — гістарычны пласт лексікі сучаснай мовы // Нар. асвета. 1974. № 5; Красней В. П. Грані слова: Факульт. курс «Лексіка і фразеалогія беларускай мовы». Мн., 1986. *М. Ц. Кавалёва.*

## УСТАЎНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ

Устаўныя канструкцыі — уведзеныя ў структуру сказа сінтаксічныя адзінкі, якія граматычна не звязваюцца з яго членамі, але, выконваючы сэнсавую функцыю, уносяць у асноўны сказ дадатковыя паведамленні, удакладненні, тлумачэнні. Напрыклад: *Перад хатаю да самага гасцінца (крокаў з трыццаць) буяў спарыш і трыпутнік* (К. Чорны); *Возчык (старават, напалоханы дзядзька ў кажуху) нясмела прыткнуўся ў перадку* (В. Быкаў).

Устаўныя канструкцыі структурна неаднародныя. Гэта могуць быць словы: *Спартсмены «Дынама» **(Мінск)** даўно не радавалі сваіх землякоў;* словазлучэнні: *Сённяшнія падручнікі па гісторыі **(паводле водгукаў у друку)** не вытрымліваюць крытыкі* (Б. Сачанка); сказы: *Хоць ён чалавек і малады — **яму толькі дваццаць восем гадоў**,— але барада яго вырасла, як у добрага старавера* (Я. Колас).

Адрозніваюць устаўкі канструктыўнага і неканструктыўнага тыпу. Калі апусціць дужкі або працяжнікі, якімі на пісьме вылучаюцца ўстаўкі, то зробленыя ўдакладненні канструктыўнага тыпу не ўпісваюцца ў структуру сказа. Напрыклад: *Стараннямі Адама Мальдзіса **(укладанне, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі)*** у 1981 г. быў выдадзены том спадчыны Язэпа Дылы (С. Панізнік); *Мінула хвілін дваццаць, як узвод **(зрэшты, хутчэй аддзяленне — чатырнаццаць чалавек)**, ціхенька споўзшы з узмежка, знік у перадранішняй цемры кустоўя...* (В. Быкаў). Устаўкі ж другога неканструктыўнага тыпу можна граматычна ўключыць у асноўную сінтаксічную канструкцыю, бо яны з'яўляюцца ўстаўнымі толькі функцыянальна. Напрыклад: *Нам кожнаю назвай **(вялікаю і дробнаю)** патрэбна, як імем сваім даражыць* (П. Панчанка); *Без Купалы, без Коласа, без Багдановіча, без Гарэцкага ці Чорнага **(калі ўявіць, што некага з іх не было)** і само паняцце, разуменне народнасці беларускай літаратуры было б трохі інакшае* (С. Александровіч).

Устаўныя канструкцыі выконваюць у выказванні разнастайныя сэнсавыя функцыі. Найбольш характэрная — тлумачальна-ўдакладняльная. Яна рэалізуецца тады, калі дадаткова паведамляюць другое найменне таго, што ўжо называлася: *Корань працаваў качагарам на Кіраўскім **(былым Пуцілаўскім)** заводзе* (І. Гурскі); *Жыцці, летапісы, або хронікі, прадмовы Ф. Скарыны, хранографы **(зводныя агляды ўсеагульнай гісторыі)** паўплывалі на развіццё гістарычнай прозы новага часу* (С. Панізнік). Яны могуць канкрэтызаваць значэнне слоў шырокага семантычнага аб'ёму: *Мы **(я кажу «мы», бо я таксама настаўнік)** ніколі не павінны забываць, наколькі годная наша праца і хто стаяў ля яе вытокаў* (У. Караткевіч). Устаўныя канструкцыі могуць удакладняць аб'ект дзеяння: *да Мінска — **малодшага брата Кіева і старэйшага па ўзросту за Маскву** — любоў і прызнанне ішло праз вякі, праз найцяжэйшыя выпрабаванні* (У. Карпаў); месца яго ажыццяўлення: *У адным сяле **(не важна — дзе)** хадзіў Баран у чарадзе* (К. Крапіва); розныя акалічнасці яго праяўлення: *Андрэй*

*паспяшаўся* — ***дзе пехатою, а дзе поездам*** — *да месца свайго прызначэння* (П. Пестрак). Устаўныя канструкцыі выконваюць таксама іншыя функцыі, напрыклад, прычынна-вызначальную: *Параўняліся, перакінуліся між сабою вясёлымі слоўцамі* ***(маладосць усюды бярэ сваё)*** *і пайшлі* — *кожная пара ў свой бок* (А. Кулакоўскі); мэтава-ўдакладняльную: *Усе выраўшылі пакінуць тут* ***(на ўсякі выпадак)*** *запіску* (І. Навуменка); даведачна-адсылачную, якая найчасцей рэалізуецца ў навуковых працах: *Прадстаўнікі тэарэтычнай паэтыкі і «лінгвістычнай крытыкі», разглядаючы паэзію як «адмыслова арганізаваную мову»* (формула Р. Якабсана), *зводзяць аналіз мастацкага твора да лінгвістычнага аналізу тэксту* (М. Цікоцкі); мадальна-ацэначную, характэрную для гутарковага маўлення і мовы мастацкай літаратуры: *Нашчадкі не вераць* ***(а можа, і вераць падсвядома, памяцццю тысячагоддзяў)*** *у лясных багоў* (У. Караткевіч). Названыя функцыі могуць выконваць устаўныя канструкцыі як канструктыўнага, так і неканструктыўнага тыпаў.

Месца ўстаўной канструкцыі абумоўліваецца яе сэнсавай функцыяй. Найчасцей устаўка ўдакладняе якую-небудзь частку сказа. Гэтыя адносіны выражаюцца кантактнай пазіцыяй: *Гэтае месца* ***(востраў, акружаны з розных бакоў балотам)*** *яму спадабалася* (М. Лынькоў); *І цікавілася маці* — ***сэрца матчына вядома,*** — *як на службе там дзіцяці, ці там лепей, ці мо дома* (Я. Купала). Устаўныя канструкцыі могуць звязвацца па сэнсе і з усім сказам: *Тысяча дзяўчат блакітнавокіх* — ***па тварах бачу*** — *зычаць шчасця мне* (П. Панчанка) або з часткай складанага сказа: *Акадэмік, які і ў сівой старасці мог па-малечы хвалявацца, злавіўшы от сабе акунька* ***(я гэта бачыў тут, на Нёмане),*** *сёння быў спахмурнелы...* (Я. Брыль).

Пераважная большасць устаўных канструкцый уключаецца ў сказ без злучнікаў: *Як умелі беларусы складаць песні! То журботныя* ***(праца на пана з цямна да цямна),*** *то ўрачыста-раздольныя* ***(подзвіг герояў, што ішлі на смерць у жорсткай бітве),*** *то віхурна-вясёлыя* ***(свята, каханне, шчасце)*** (М. Гамолка). Могуць уключацца і з дапамогай злучальных злучнікаў *і, а, ці*: *Вучыўся, настаўнічаў, дзве вайны перажыў, знёс клопату і трывог, голаду і холаду, мей не адну* — ***і назаўсёды*** — *страту* (Ф. Янкоўскі); з дапамогай падпарадкавальных злучнікаў і злучальных слоў *калі, хоць, як, што, каторы, які* і інш.: *Для Юркі гэтыя паездкі* — ***калі бацька браў яго з сабою*** — *былі цэлым святам* (І. Мележ).

Устаўныя канструкцыі не выражаюць суб'ектыўных (мадальных, эмацыянальных, экспрэсіўных) адносін да выказанай думкі, таму свабодна ўжываюцца ва ўсіх стылях мовы. У афіцыйных паперах яны даюць магчымасць дасягнуць выключнай дакладнасці, напрыклад, афармляючы распіску ці грашовы перавод, запісваюць як лічбавае, так і слоўнае выражэнне пэўнай сумы: *атрымаў 200* ***(дзвесце)*** *рублёў*. Такую ж удакладняльную функцыю выконваюць устаўныя канструкцыі ў навуковым стылі: *Янка Купала* ***(Іван Дамінікавіч Луцэвіч)*** *нарадзіўся ў 1882 годзе* (І. Навуменка). У публіцыстычным і мастацкім стылях устаўныя канструкцыі найчасцей удакладняюць суб'ект або аб'ект таго дзеяння, пра якое гаворыцца ў асноўным сказе: *Пад вечар, як спала гарачыня, я ўзяў пужку* — ***яе мне звіў з пянькі дзед Васіль*** — *і пагнаў на выган бабуліных гусей* (А. Васілевіч).

*Літ.:* Базыленка А. М. Пабочныя і ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Мн., 1964; Беларуская граматыка. Ч. 2. Сінтаксіс. Мн., 1986; Яўневіч М. С., Сцяцко П. У. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1987. *Г. М. Малажай.*

## УСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ МОВЫ

Усходнеславянскія мовы (руская, украінская і беларуская) — асобная падгрупа ў славянскай групе індаеўрапейскай сям'і моў. Яны займаюць вялікую тэрыторыю, з'яўляюцца роднаснымі мовамі.

У колькасных адносінах 1-е месца належыць рускай мове, 2-е — украінскай і 3-е — беларускай. Руская мова — адна з 6 афіцыйных і рабочых моў ААН. Украінская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай Украіны, яе лічаць роднай мовай каля 3 мільёнаў жыхароў Расійскай Федэрацыі і многія жыхары іншых рэспублік. Каля мільёна ўкраінцаў карыстаюцца сваёй мовай у ЗША, каля 700 тыс.— у Канадзе, 150 тыс.— у Аргенціне, 140—150 тыс.— у Бразіліі, 15 тыс.— у Аўстраліі і іншых краінах свету. Беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай Беларусі. Яе лічаць роднай 80,2 % карэннага насельніцтва рэспублікі (7905 тыс.), агульная колькасць жыхароў якой — 10152 тыс. чалавек (паводле перапісу 1989 г.). Свабодна валодаюць ёй 24,5 % рускіх, якія жывуць на Беларусі, 17,8 % палякаў, 10,5 % украінцаў, 27,6 % яўрэяў. Каля 1 млн. беларусаў працуе і карыстаецца сваёй мовай у розных краінах свету і каля 2 млн.— за межамі рэспублікі ў былым СССР.

Усходнеславянскія мовы паходзяць з адной крыніцы — старажытнарускай мовы, якая выдзелілася са славянскай моўнай групы, утваралася на працягу 8—9 ст. і пазней паслужыла асновай для фарміравання рускай, украінскай і беларускай моў. Феадальная раздробленасць Старажытнарускай дзяржавы, а таксама мангола-татарскае нашэсце расчлянілі яе на паасобныя часткі і з сярэдзіны 13 ст. яна перастала існаваць як агульная дзяржава ўсходніх славян. Беларускія землі і большая частка ўкраінскіх увайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Вынікам гэтага стала фарміраванне рускай, украінскай і беларускай народнасцей і адпаведна самастойных літаратурных моў — стараруская, стараўкраінская і старабеларуская (14—18 ст.).

Па меры далейшага развіцця 3 народнасцей адбывалася ўтварэнне велікарускай, украінскай і беларускай нацый і іх моў. Гэты працэс на ўсходняй славяншчыне пачаўся ў 17 ст., а завяршыўся ў 1-й палове 19 ст.

Сучасныя ўсходнеславянскія мовы функцыяніруюць у пісьмовай і вуснай формах; вусная рэалізуецца ў народна-гутарковай сферы ўжывання, а літаратурная — яшчэ і ў пісьмовай. Паміж гэтымі формамі існуе цесная сувязь і ўзаемадзеянне. Найбольш дасканалымі і ўнармаванымі ва ўсіх 3 мовах з'яўляюцца формы літаратурнага выражэння, на кожнай з іх ствараецца разнастайная па змесце мастацкая, грамадска-палітычная, навуковая і публіцыстычная літаратура.

Шмат агульных рыс у літаратурных мовах рускага, украінскага і беларускага народаў. Разам з тым у іх выяўляюцца многія спецыфічныя графіка-арфаграфічныя, граматычныя і лексічныя асаблівасці, якія можна прызнаць тыповымі для 2 з 3 моў або для кожнай мовы паасобку.

Графіка ўсходнеславянскіх моў заснавана на кірыліцкай азбуцы (гл. **Кірыліца**). Азбукі сучасных усходнеславянскіх моў у аснове сваёй супадаюць, адрозніваючыся толькі некаторымі асаблівасцямі. Да іх адносяцца: адсутнасць літары *і* ў рускай мове і наяўнасць яе ў беларускай і ўкраінскай (рус. *синий* — бел. *сіні* — укр. *синій*); адсутнасць *э, ы, ё* ва ўкраінскай мове і наяўнасць у рускай і беларускай *(етимологія — этимология — этымалогія, високий — высокий — высокі, веселий — весёлый — вясёлы)*; адсутнасць *и, щ* у беларускай мове і наяўнасць у рускай і ўкраінскай *(вінаград — виноград, шчыпаць — щипати)*; наяўнасць *ў* у беларускай мове і адсутнасць у рускай і украінскай *(поўны — полный — повний, чытаў — читал — читав, была ў яго — была у него — била в нього)*; наяўнасць *є, ї* ва ўкраінскай мове і адсутнасць іх у рускай і беларускай *(єден — один — адзін, їхати — ехать — ехаць)*; наяўнасць раздзяляльнага знака *ъ* у рускай мове, якому ў беларускай і ўкраінскай адпавядае ' (апостраф): *объявление — аб'ява — об'явлення.*

Многія *фанетычныя асаблівасці* ўсходнеславянскіх моў з'яўляюцца для іх агульнымі, паколькі мовы генетычна звязаны. Але ў 2 або ў адной з 3 моў у розныя часы выпрацаваліся свае адметныя рысы. Беларуская і ўкраінская мовы, напрыклад, захавалі такія агульныя фанетычныя рысы, як зацвярдзенне шыпячых *(жыццё — життя, чытаць — читати, шыць — шити)*, чаргаванне заднеязычных *г, к, х* са свісцячымі *з, ц, с* *(назе — нозі, руцэ — руці, мачысе — мачусі)*; спалучэнні *ры, лы, ри, ли* ў адкрытых складах *(крывавы — кривавий, глытаць — глитати)*; галосныя *ы, і, и* перад ранейшым *j* *(малады — молодий, лі — лий)*; пераход *л* у *ў, в* у сярэдзіне і канцы слова *(воўк — вовк, крычаў — кричав)*; прыстаўныя галосныя і зычныя *(імгла — імла, іржа — іржа, востры — гострий, вокны — вікна)*; падаўжэнне зычных *(зелле — зілля, вяселле — весілля, узбярэжжа — узбережжа, быццё — буття)*.

Да беларуска-рускіх фанетычных з'яў адносяцца: адрозненне галосных *і (и), ы* *(міласцівы — милостивый)*; зацвярдзенне зычнага *ц* *(палец, купец)*; галосны *е* на месцы *ѣ* *(лес, хлеб)*.

Некаторыя фанетычныя рысы рускай мовы супадаюць з украінскімі. Напрыклад, наяўнасць не толькі цвёрдага, але і мяккага *р* *(ряд, редкий — рідкий, резкий — різкий, прямой — прямий, буря)*.

У працэсе развіцця фанетычнай сістэмы ўсходнеславянскіх моў замацаваліся асаблівасці, характэрныя толькі для адной з 3 моў. У рускай мове — выбухны зычны гук [ґ] *(гора, гуси)*; спалучэнні *ро, ло* ў адкрытых складах *(дрожать, глотать)*; націскныя галосныя *о, е* перад *й* *(молодой, лей)*. У беларускай — поўнае аканне *(вада, нага)*; яканне *(зямля, сястра)*; дзеканне *(падзяка, дзед)* і цеканне *(цёплы, ціхі)*. Ва ўкраінскай — чаргаванне галосных гукаў *о, е* з *і* ў закрытых складах *(кінь — коня, ніч — ночи, піч — печи)*; галосны *і* на месцы *ѣ* *(сіно, летіти)*; супадзенне галосных *і, ы* ў адным гуку [и] *(зима, лист, бик, дим)*; мяккі зычны *ц* *(жнець, палець)*.

*Арфаграфічная сістэма* ўсходнеславянскіх моў заснавана на адных і тых жа прынцыпах, толькі ў розных сферах іх ужывання. Правапіс рускай мовы найбольш цесна звязаны з марфалагічным прынцыпам: адны і тыя ж гукі і марфемы пішуцца аднолькава незалежна ад вымаўлення іх у розных формах ужывання: *молотьба — молотить — молот, вода — воды, честь — честный, перевал — перевалить.* Значна менш распаўсюджана фанетычнае напісанне: *расписка — роспись, возраст — воспитание, разбить — розыск.* Арфаграфічная сістэма сучаснай рускай мовы грунтуецца таксама на традыцыйным прынцыпе, калі напісанне слоў адпавядае іх паходжанню або вымаўленню ў мінулым *(жена, широкий, берёшь, поставь, степь)*, і дыферэнцыруючым — для размежавання аманімічных слоў: *орёл* (птушка) і *Орёл* (горад).

Арфаграфія сучаснай беларускай літаратурнай мовы заснавана на фанетычным і марфалагічным прынцыпах. Звычайна фанетычнаму прынцыпу падпарадкавана напісанне галосных гукаў *(вада — воды, вясна — веснавы, вяселле — вясёлы)*, а марфалагічнаму — зычных *(пытанне — питання, нож, рэж, сядзь, малацьба, падпісчык, грузчык)*. Як і ў рускім пісьме, ужываецца таксама дыферэнцыруючы прынцып: *ветка* (чыгуначная) і *Ветка* (гарадскі пасёлак).

У аснове ўкраінскага правапісу ляжаць фанетычны *(ліс, ніч, піч, гарячий, ходити, сонце)* і марфалагічны *(весна, просьба, напис, написати)* прынцыпы, але першы з іх, у параўнанні з адпаведным беларускім, менш пашыраны. Ужываецца зрэдку і традыцыйнае напісанне: *вода, нога, земля.* Дыферэнцыруючы прынцып ва ўкраінскай мове, як у рускай і беларускай, мае месца таксама: *мороз* (з'ява прыроды) і *Мороз* (прозвішча).

*Марфалагічная сістэма* ўсходнеславянскіх моў заснавана на аднатыпнай і спецыфічнай граматычнай афармленасці. Пераважная большасць назоўнікаў ва ўсіх 3 мовах размяркоўваецца аднолькава па формах роду. Але граматычны род некаторых з іх не заўсёды супадае. У адных выпадках адны і тыя ж назоўнікі ў беларускай і ўкраінскай мовах належаць да мужчынскага роду (бел. *цень, шаль, шынель, медаль, цяжар, сабака*; укр. *тень, шаль, шинель, медаль, тягар, собака*), а ў рускай — да жаночага *(тень, шаль, шинель, медаль, тяжесть, собака)*; да ніякага [бел. *цяля(-ё), парася (-ё), ягня (-ё), казляня (-ё)*; укр. *теля, порося, ягня, козленя*] і мужчынскага *(телёнок, поросёнок, ягнёнок, козлёнок)*; у рускай і беларускай — да мужчынскага (рус. *кризис, тезис, президиум, путь*; бел. *крызіс, тэзіс, прэзідыум, пуць*), ва ўкраінскай — да жаночага *(криза, теза, президія, путь)*; да жаночага (рус. *тряска*; бел. *трасяніна*) і ніякага *(трясіння)*; да жаночага (рус. і бел. *моль*) і мужчынскага *(міль)*.

Формы ліку ва ўсходнеславянскіх мовах часам не супадаюць. Некаторыя назоўнікі ў беларускай і ўкраінскай мовах ужываюцца ў адзіночным і множным ліках (бел. *клопат, клопаты*; укр. *клопіт, клопоти*), а ў рускай — толькі ў множным *(хлопоты)*; у рускай і ўкраінскай — толькі ў множным (рус. *объедки, потёмки*; укр. *об'їдки, сутінки*), а ў беларускай — у адзіночным і множным *(аб'едак — аб'едкі, поцемак — поцемкі)*; толькі ў адзіночным (рус. *брусника*; укр. *брусниця)* — у адзіночным і множным *(брусніца — брусніцы)*; у рускай — толькі ў множным *(чернила, похороны)*, а ў беларускай і ўкраінскай — толькі ў адзіночным (бел. *чарніла, пахаванне*; укр. *чорнило, похорон)*; у рускай — толькі ў множным *(сумерки)*, у беларускай — у адзіночным *(змрок)*, а ва ўкраінскай — у адзіночным і множным *(присмарк — присмерки)*.

У сістэме скланення назоўнікаў адзіночнага ліку 1-га скланення беларуская мова і яшчэ ў большай ступені ўкраінская засвоілі ў родным склоне канчатак *-у (-ю)*, не характэрны для рускай: бел. *ветру, грому, гневу, страху*, але: *інстытута, Крыма*; укр. *вітру, грому, гніву, страху, інституту, Криму*. Параўнайце ў рускай мове: *ветра, грома, гнева, страха, института, Крыма.* Давальны склон у мужчынскім родзе адзіночнага ліку ва ўкраінскай мове мае варыянтныя канчаткі *-у(-ю)* і *-ові, -еві(-єві): аспіранту* і *аспірантові, комсомольцю* і *комсомольцеві, чародію* і *чародієві*; параўнайце: рус. *аспиранту, комсомольцу, чародею*; бел. *аспіранту, камсамольцу, чарадзею.* Апошні варыянтны канчатак сярод адзначанай групы назоўнікаў пашыраны ва ўкраінскай мове і ў месным склоне адзіночнага ліку.

Утварэнне форм прыметнікаў ва ўсходнеславянскіх мовах характарызуецца некаторымі асаблівасцямі. Ва ўкраінскай мове формы мужчынскага роду адзіночнага ліку назоўнага склону маюць канчатак *-ий, -ій: новий, молодий, синій.* У рускай такія канчаткі ўжываюцца не пад націскам *(новый, синий)*, а пад націскам выступае канчатак *-ой (молодой)*; у беларускай у выніку сцяжэння канцавы *й* страціўся *(новы, малады, сіні)*. Адсячэнне канцавога галоснага ў зыходных формах прыметнікаў жаночага і ніякага роду адзіночнага і множнага лікаў — спецыфічная з'ява ўкраінскай мовы: *нове(-о), молода(-о), синя(-е), нові, молоді, сині*; параўнайце: рус. *новая (-ое), молодая (-ое), новые, молодые, синие*; бел. *новая (-ае), маладая (-ое), сіняя (-яе), новыя, маладыя, сінія.*

Агаворкі патрабуюць беларускія формы прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку роднага склону на *-ай (-яй)* (пад націскам *-ой*) і паралельныя *-ае (-яе), -ое*, невядомыя рускай і ўкраінскай мовам: *новай (-ае), сіняй (-яе), маладой (-ое).* У рускай мове — *новой, синей, молодой*; украінскай — *нової, синьої, молодої.*

Утварэнне простых форм вышэйшай ступені якасных прыметнікаў ва ўсіх 3 мовах адбываецца па-рознаму. Для рускай мовы характэрны нескланяльныя формы з суфіксамі *-ее- (-ей-), -е-, -ш-* [*веселый — веселее (-ей), дорогой — дороже, тон-*

*кий — тоньше*], для беларускай — скланяльныя з суфіксам *-ейш-, -эйш-* (*вясёлы — весялейшы, дарагі — даражэйшы, тонкі — танчэйшы*), а для ўкраінскай — скланяльныя з суфіксамі *-іш-, -ч-, -ш-* (*веселий — веселіший, дорогий — дорожчий, тонкий — тонший*).

У займенніках асаблівую ўвагу звяртае неадпаведнасць унутранай структуры некаторых форм. У рускай мове зыходныя формы асабова-ўказальнага займенніка *он, она, оно, они* засталіся без змен, у беларускай развіўся прыстаўны *j* (*ён, яна, яно, яны*), ва ўкраінскай — *в* (*він, вона, воно, вони*). У рускай мове ў мужчынскім родзе адзіночнага ліку назоўнага склону развілася форма ўказальнага займенніка *тот*, у беларускай і ўкраінскай — *той*; у жаночым родзе адпаведна *та — тая — та* (*тая*); у ніякім *то — тое — те*. Руская мова засвоіла форму ўказальнага займенніка *этот* з прыстаўным галосным *э*, беларуская — *гэты* з прыстаўным зычным *г*, а ўкраінская — паралель іншай каранёвай структуры *цей*.

Некаторыя займеннікі ў кожнай з 3 моў захавалі розныя ўнутрыструктурныя асаблівасці: пытальна-адносныя займеннікі рускай мовы *кто, что, который*, беларускай — *хто, што, каторы*, украінскай — *хто, шо, котрий*.

У аснове лічэбнікаў усходнеславянскіх моў ляжаць словы, арганічна звязаныя сваёй унутранай будовай, але і тут можна выявіць некаторыя асаблівасці. Напрыклад, утварэнне некаторых пэўна-колькасных, парадкавых і зборных лічэбнікаў у беларускай і ўкраінскай мовах адбываецца аднолькава: *чатыры, абое* (*абодва, абедзве*), *першы, другі — чатири, обоє* (*обидва, обидві*), *перший, другий*. Параўнайце ў рускай мове: *четыре, оба* (*обе*), *первый, второй*.

Дзеяслову ўсходнеславянскіх моў уласцівы найбольш сістэмныя формаўтваральныя асаблівасці. У форме 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў 1-га спражэння ў беларускай і ўкраінскай мовах адсутнічае зычны *т* канчатка (бел. *нясе*, укр. *несе*, рус. *несёт*); у 3-й асобе множнага ліку дзеясловаў 1-га спражэння, адзіночнага і множнага 2-га спражэння захаваліся мяккія канцавыя зычныя (*нясуць, гарыць, гараць — несуть, горить, горять*; рус. *несут, горит, горят*); дапасаванне ў складзе плюсквамперфекта асноўнага і дапаможнага дзеяслова ў форме роду і ліку (*ён прастудзіўся быў, вада высахла была — він простудився був, вода висохла була*; рус. *он простудился было, вода высохла было*); у значэнні 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку загаднага ладу ўжываюцца формы абвеснага ладу ў спалучэнні з часціцай бел. *хай, няхай*, укр. *нехай* [*хай нясе, нясуць — нехай несе, несуть*; рус. *пусть* (*пускай*) *несёт, несут*]; спрашчэнне часціцы *бы, би* ў *б* ва ўмоўным ладзе ў становішчы пасля галосных (бел. і ўкр. *стукнула б*, рус. *стукнула бы*); утварэнне дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу пры дапамозе суфіксаў *-уч-* (*-юч-*), *-ач-* (*-яч-*) і адпаведных канчаткаў прыметнікаў (*растучы, наступаючы, гаворачы, спячы — ростучий, наступаючий, говорячий, спячий*; рус. *растущий, наступающий, говорящий, спящий*) і адпаведных дзеепрыслоўных форм на *-учы-, -учи-, -ачы-, -ачи-, -ячы-, -ячи-* (*несучы, чытаючы, стоячы — несучи, читаючи, стоячи*; рус. *неся, читая, стоя*).

У сістэме дзеясловаў вылучаюцца паасобныя формаўтваральныя мадэлі, агульныя для рускай і беларускай моў: інфінітыўныя формы на *-ть, -ць, -ти, -ці, -чь, -чы* (рус. *носить, ползти, беречь* — бел. *насіць, паўзці, берагчы*; параўнайце укр.: *носити, повезти, берегти*); формы 1-й асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу з канчаткам *-м*: рус. (*про*)*читаем* — бел. (*пра*)*чытаем*; укр. (*про*)*читаємо*; утварэнне складанага будучага часу шляхам спалучэння асабовых форм дапаможнага дзеяслова *быць* і інфінітыва асноўнага дзеяслова (*буду, будешь писать — буду, будзеш пісаць*; укр. *буду, будеш писати* і *писатиму, писатимеш*); формы 2-й асобы множнага ліку загаднага ладу з канчаткам *-те, -це* (*крикните, берите — крыкніце, бярыце*; укр. *крикніте*, але *беріть*, калі націскны суфікс *-і-*).

Руска-ўкраінскай прыкметай зваротных дзеясловаў з'яўляецца змяненне постфікса *-ся* ў *-сь* пасля галосных: *расходиться, расходился, расходилась — розходитися, розходився, розходилась*; бел. *расхадзіцца, расхадзіўся, расхадзілася*.

Вылучаюцца нешматлікія групы прыслоўяў з нятоеснымі спосабамі ўтварэння. Толькі ў беларускай і ўкраінскай мовах аддзеяслоўныя прыслоўі могуць утварацца пры дапамозе суфікса *-кі-, -ки-*: *моўчкі — мовчки*; рус. *молча*. Што датычыць прыслоўяў, утвораных ад прыназоўнікавай формы давальнага склону назоўнікаў, то ў рускай мове яны маюць суфікс *-и-*, у беларускай — *-аму, -ы-*, украінскай — *-ому-*: рус. *по-собачьи, по-человечьи* — бел. *пасабачаму, па-чалавечы* — укр. *пособачому, по-людському*.

Аснову с і н т а к с і ч н а й с і с т э м ы рускай, украінскай і беларускай моў складаюць агульныя з'явы, што развіліся са старажытнарускай мовы або ўзніклі пазней у розныя гістарычныя перыяды. Адначасова існуюць і такія асаблівасці, якія на фоне іншых можна прызнаць спецыфічнымі для 2 моў або для кожнай з іх паасобку. Гэта датычыць у першую чаргу структуры словаспалучэнняў, сярод якіх вылучаюцца агульныя беларуска-ўкраінскія тыпы падпарадкавальнай сувязі слоў. Напрыклад, аднолькавае ўжыванне адных і тых жа прыназоўнікаў, якія патрабуюць адпаведнай склонавай формы залежнага слова: *да, до* — рус. *к* (*здольнасць да вучобы, зайсці да таварыша — здібність до учоби, зайті до товариша*; рус. *способность к учёбе, зайти к товарищу*); *на — в* (*во*) (*на карысць людзям, на ўвесь рост — на користь людям, на весь зріст*; рус. *в пользу людей, во весь рост*); *за — в* (*за два кіламетры — за два кілометри*; рус. *в двух километрах*); *да, до — по* (*да пояса ў вадзе — до пояса у воді*; рус. *по пояс в воде*); *а, аб, пра, о, об, про — в* (*а першай гадзіне, аб адзінаццатай гадзіне, думаць пра сына — о першій годині, об одинадцятій годині, думати про сина*; рус. *в первом часу, в одиннадцать часов, думать о сыне*); *з — над* (*надо*) (*смяяцца з таварыша, з мяне — сміятися з товариша, з мене*; рус. *смеяться над товарищем, надо мной*) і інш. Сюды ж можна дадаць аднолькавыя па сэнсе беспрыназоўнікавыя дзеяслоўныя словаспалучэнні з давальным склонам залежнага слова: бел. *дзякаваць таварышу*, укр. *дякувати товаришеві*, але рус. *благодарить товарища*.

У беларускай і ўкраінскай мовах лічэбнікі *два, тры, чатыры* ў назоўным і вінавальным склонах дапасуюцца да назоўнікаў у назоўным склоне множнага ліку (бел. *два, тры, чатыры агароды*; укр. *два, три, чотири городи*), а ў рускай яны спалучаюцца з формамі роднага склону адзіночнага ліку (*два, три, четыре огорода*).

У названых мовах шырэй, чым у рускай, ужываюцца паасобныя віды сінтаксічнай сувязі, пры якой залежнае слова ў форме прыметніка дапасуецца да назоўніка ў родзе, ліку і склоне: бел. *бацькаў дом*; укр. *батьківська хата*; рус. *дом отца*.

Да руска-беларускіх сінтаксічных аналагаў адносяцца асабовыя канструкцыі з дзеясловамі прошлага часу ў ролі галоўнага члена, якім ва ўкраінскай мове адпавядаюць безасабовыя спалучэнні з дзеепрыметнікамі залежнага стану прошлага часу на *-но, -то*: рус. *дом построили, вход закрыли*; бел. *хату пабудавалі, уваход закрылі*; укр. *хату побудовано, вхід закрито*.

У л е к с і ч н а й с і с т э м е ўсходнеславянскіх моў захавалася нямала слоў, агульных для беларускай і ўкраінскай моў, але не ўласцівых рускай: бел. *вежа* — укр. *вежа* — рус. *башня*; адпаведна: *жыта — жито — рожь, крыніца — криниця — родник, каваль — коваль — кузнец, мова — мова — язык*.

Існуе таксама група руска-беларускіх лексічных адпаведнікаў, якія не атрымалі нарматыўнай прапіскі ва ўкраінскай мове: рус. *горевать* — бел. *гараваць* — укр. *бідкатися*, адпа-

ведна: *кулак — кулак — куркуль, просьба — просьба — благання, равнодушный — раўнадушны — байдужний, самолет — самалёт — літак.*

Вылучаюцца ў асобную групу словы, агульныя для рускай і ўкраінскай моў. Гэта найперш некаторыя царкоўнаславянізмы, якія ўжываюцца ва ўкраінскай і рускай мовах, а ў беларускай ім адпавядаюць словы іншай каранёвай структуры: рус. *жертва* — укр. *жертва* — бел. *ахвяра*; адпаведна: *праздник — празник — свята, уста — уста — вусны, благодать — благодать — раскоша, благодушный — благодушний — лагодны.* Адначасова ў слоўнікавым складзе ўкраінскай мовы ёсць шмат слоў, якія на ўзор беларускай мовы выцясняюць царкоўнаславянізмы: укр. *хіба* — бел. *хіба* — рус. *разве*; адпаведна: *проводир — правадыр — вождь, загальний — агульны — общий, повітря — паветра — воздух, прагнення — прагнасць — жадность.*

Асобнае месца ў лексічнай сістэме ўсходнеславянскіх моў займаюць словы, якія з'яўляюцца спецыфічнымі для кожнай з 3 моў паасобку: рус. *деревня* — бел. *вёска* — укр. *село*; адпаведна: *отрицательный — адмоўны — даперечний, судьба — лёс — доля, август — жнівень — серпень, скитаться — туляцца — тинятися, безразлично — абыякава — байдуже, кнут — пуга — батіг, около — каля — біля.*

Асобны лексічны разрад ва ўсходнеславянскіх мовах складаюць словы з рознымі семантычнымі адценнямі. Так, слова лацінскага паходжання *гонар* (рус. і ўкр. *гонор*) ва ўсе 3 мовы пранікла з польскай мовы, але з неаднолькавымі значэннямі: руская мова засвоіла яго з экспрэсіўным значэннем 'ганарыстасць, фанабэрыстасць', а беларуская і ўкраінская мовы — са стылістычнай характарыстыкай мовы-крыніцы 'павага, слава; маральная або грамадская годнасць; тое, што выклікае ўсеагульную павагу'. Лацінскую лексему *артыкул* беларуская і ўкраінская *(артикул)* мовы засвоілі праз польскую (*artykuł*) з захаваннем значэнняў мовы-пасрэдніцы: 'твор невялікага памеру; раздзел у юрыдычных дакументах; тып тавару, прадукту, вырабу'. У рускую мову ўвайшоў відазменены варыянт лацінскага этымона *articulus*, які ў семантычных адносінах не поўнасцю супадае са сваім адпаведнікам у беларускай і ўкраінскай мовах — першыя 2 значэнні слова як нарматыўныя з'явы адсутнічаюць.

Лексіка-семантычныя змены на ўсходняй славяншчыне закранулі не толькі серыю іншамоўных слоў. Такія, напрыклад, словы, як рус. *рядок* 'лінія роўна размешчаных аднародных прадметаў', бел. *радок* і ўкр. *рядок*, якія адпавядаюць рускаму 'строка', выразна пра гэта сведчаць. У іншых выпадках значэнні слоў супадаюць у рускай і ўкраінскай мовах: рус. *случаться*, укр. *злучатися* 'адбывацца, здарацца' — бел. *злучацца* 'соединяться'. Ёсць ва ўсходнеславянскіх мовах група слоў, пашырэнне семантычнага аб'ёму якіх ведае толькі беларуская мова: рус. *боты*, укр. *боти* 'абутак з кароткімі галянішчамі' — бел. *боты* і 'абутак з высокімі халявамі'.

На ўсіх этапах развіцця ўсходнеславянскіх моў адбывалася і адбываецца іх узаемадзеянне на розных узроўнях, асабліва на лексічным. Значная колькасць слоў у беларускую і ўкраінскую літаратурныя мовы ўлілася пад уплывам рускай. Гэта найперш тэрміналагічная лексіка, якая пранікала ў абедзве мовы ў спецыфічным для кожнай з іх гукавым афармленні, а таксама неалагізмы, выкліканыя да жыцця з'явамі грамадска-палітычнага характару.

Разам з тым звычайнымі ў рускай мове сталі некаторыя словы і словаспалучэнні, першакрыніцамі якіх паслужыў лексічны матэрыял беларускай і ўкраінскай моў [*доярка, делянка, запал* (палемічны), *землероб, хата-читальня*] або толькі беларускай *(песняры, сябры, добрый день)*. Прычым паасобныя словы гэтага тыпу *(хлебороб)* выцеснілі з актыўнага ўжывання спрадвечна рускія сінонімы *(хлебопашец)*.

У слоўнікавым складзе рускай мовы мае месца і тыпова ўкраінская лексіка: *балакать, бандура, борщ, булава, галушка, кобзарь.*

Украінскія лексічныя элементы пакінулі таксама пэўны след і ў беларускай мове на ўзроўні грамадска-палітычнай і лінгвістычнай тэрміналогіі: *барацьба, барацьбіт; дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе, займеннік, чаргаванне.*

*Літ.:* Ломтев Т. П. Сравнительно-историческая грамматика восточнославянских языков: Морфология. М., 1961; Анічэнка У. В. Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі. Мн., 1969; Яго ж. Марфалогія ўсходнеславянскіх моў. Мн., 1973; Яго ж. Гістарычная лексікалогія ўсходнеславянскіх моў. Гомель, 1978; Яго ж. Гістарычная фанетыка ўсходнеславянскіх моў. Гомель, 1982; Яго ж. Мовы ўсходніх славян. Мн., 1989; Гурскі М. І. Параўнальная граматыка рускай і беларускай моў: Фанетыка і марфалогія. 2 выд. Мн., 1972; Юргелевіч П. Я. Курс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі. Мн., 1974; Брицін М. А., Жовтобрюх М. А., Майборода А. В. Порівняльна граматика української і російської мов. Київ, 1978; Козырев И. С. Формирование словарного состава русского и белорусского языков: Соматическая лексика. Мн., 1983; Булахов М. Г., Жовтобрюх М. А., Кодухов В. И. Восточнославянские языки. М., 1987. *У. В. Анічэнка.*

---

**Ў** — *дваццаць другая літара беларускага алфавіта. Утворана шляхам спалучэння літары У з дыякрытычным знакам. Мае назву «у нескладовае». У старабеларускім пісьменстве не ўжывалася: гук ў у той час абазначаўся літарамі* в, у, л (врочыщо, вслышалшы, плакавъ, по узгоркохъ). *Прапанавана ў 1870 П. А. Бяссонавым. Па тэхнічных прычынах доўгі час замянялася літарай* у. *У тэкстах, надрукаваных лацінкай, абазначалася знакамі* и, й, ŭ, *напрыклад, у творах В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, выданнях беларускага фальклору, сабранага М. Федароўскім. Пачала выкарыстоўвацца ў пачатку 20 ст. ў газетах «Наша доля» і «Наша ніва», выданнях суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». У сучаснай беларускай мове абазначае санорны цвёрды шчылінны губна-губны зычны гук ў пасля галосных перад зычнымі і ў канцы слова* (воўк, здароўе — *«здароўйэ»*, улоў). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму.* *А. М. Булыка.*

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны
16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

*Мова продкаў нашых і нашчадкаў—*
*Шэпт дубровы і пчаліны звон,—*
*Нам цябе ласкава і ашчадна*
*Спазнаваць ажно да скону дзён,*
*Па чужых краях не пабірацца,*
*Не аддаць цябе на забыццё,*
*Наша невычэрпнае багацце,*
*Наша несмяротнае жыццё.*

Генадзь Бураўкін



*Ф — дваццаць трэцяя літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Ф («ферт»), што ўзнікла на аснове грэка-візантыйскай устаўнай Ф («фі»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі,* ф, ф' *у запазычаных словах* (арфа, финикъ). *Мела таксама лічбавае значэнне «пяцьсот». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. Супала значэннем з літарай ѳ («фіта») і ў дзелавым пісьменстве была выціснена апошняй. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваецца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумныя глухія шчылінныя губна-зубныя зычныя гукі* ф, ф' *пераважна ў словах іншамоўнага паходжання* (фарба, філіял — «ф'іл'ійал»). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ФЗН, ФЭД), як умоўнае скарачэнне слова «фунт» (15 ф.). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дваццаць першы» (група «Ф»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (пункт № 7ф).*

*А. М. Булыка.*

## ФАНАЛОГІЯ

Моўны апарат чалавека можа ўтвараць мноства самых разнастайных у фізічных адносінах гукаў. Але далёка не ўсе яны служаць сродкам адрознення значымых моўных адзінак (марфем, слоў). Напрыклад, розныя ў акустычных і артыкуляцыйных адносінах гукі [т] і [т°] у словах *там* і *т°ом* успрымаюцца носьбітамі беларускай мовы як адзін гук [т]. Пры моўных зносінах іх адрозненне неістотнае (адрознівальную функцыю выконваюць гукі [а] і [о]). У іншых мовах, напрыклад лезгінскай, наадварот, словы могуць адрозніваецца толькі гэтымі гукамі. Гэта азначае, што для пэўнага моўнага калектыву важныя не ўсе магчымыя гукі, а толькі тыя, якія служаць сродкам адрознення слоў і іх форм. Такія асноўныя функцыянальна важныя адзінкі мовы, якія служаць для адрознення (ці атаясамлівання) слоў, марфем, называюць фанемамі. Уся разнастайнасць гукаў у кожнай мове зводзіцца да невялікай колькасці фанем, якія ўтвараюць звычайна рацыянальную і эканомную сістэму (у розных мовах свету колькасць фанем вар'іруецца ад 12 да 80). Навука, што даследуе фанемы і іх сістэму, называецца фаналогіяй (ад грэч. phōnē гук і logos вучэнне, слова).

У адрозненне ад фанетыкі (гл. **Фанетыка**), якая даследуе гукавы лад мовы — яго артыкуляцыйна-акустычныя характарыстыкі, фаналогія вывучае гукавы бок мовы ў яго функцыянальным аспекце. Такім чынам, фаналогія і фанетыка разглядаюць розныя бакі аднаго і таго ж аб'екта і складаюць адзінае цэлае, таму фаналогію яшчэ называюць функцыянальнай фанетыкай.

У цэнтры ўвагі фаналогіі як навуковай дысцыпліны — праблема тоеснасці фанемы як мінімальнай (непадзельнай у часе) сэнсаадрознівальнай адзінкі гукавога ладу мовы. Так, фаналогія вызначае прыкметы, якія складаюць змест фанемы, высвятляе суадносіны, з аднаго боку, паміж фанемай і гукамі, у якіх яна рэалізуецца ў моўнай плыні, а з другога боку, з марфемай, словам. У задачы фаналогіі ўваходзіць таксама вызначэнне колькаснага складу фанем у мове, выяўленне сувязей, што існуюць паміж асобнымі фанемамі і іх групамі, інакш кажучы, устанаўленне сістэмы фанем.

Упершыню звярнуў увагу на рэальную супярэчнасць паміж параўнальна невялікай колькасцю функцыянальна значных гукаў і практычна незлічонай колькасцю розных фізічных гукаў, з якіх складаецца мова, І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ, які і ўвёў у лінгвістычны ўжытак тэрмін «фанема». У 1870—80-я гады ён распрацаваў асноўныя палажэнні аб фанемах «як рухомых кампанентах марфем», аб разнастайнасці гукаў, што аб'ядноўваюцца ў адну фанему. Вялікую ролю ў фарміраванні агульнай тэорыі фаналогіі мелі працы Л. У. Шчэрбы, які вызначыў фанему як адзінку, здольную дыферэнцыраваць словы і іх формы, а таксама працы М. С. Трубяцкога і Р. О. Якабсона. Як самастойная дысцыпліна фаналогія пачала фарміравацца ў канцы 19 ст. і канчаткова аформілася ў 1930-я гады ў Еўропе (пражская лінгвістычная школа, капенгагенская школа — Л. Ельмслеў, О. Есперсен, Х. Педэрсен і інш., лонданская школа Д. Джоунза) і ў ЗША (як раздзел дэскрыптыўнай лінгвістыкі). У СССР склаліся 2 фаналагічныя школы — ленінградская (Л. У. Шчэрба, Л. Р. Зіндэр, М. І. Матусевіч, Л. В. Бандарка і інш.) і маскоўская (Р. І. Аванесаў, У. М. Сідараў, П. С. Кузняцоў, А. А. Рэфармацкі, В. В. Іваноў, М. В. Паноў і інш.). Да 1930-х гадоў адносіцца і пачатак дыяхранічнай фаналогіі, у развіцці якой вялікае значэнне мелі працы Я. Дз. Паліванава, Р. О. Якабсона, А. Марцінэ і інш.

Развіваючы ідэі І. А. Бадуэна дэ Куртэнэ, розныя фаналагічныя школы падыходзяць, аднак, з розных бакоў да цэнтральнага пытання фаналогіі — вызначэння сутнасці фанемы, г. зн. вызначэння тых прыкмет, якія

складаюць змест фанемы. Яны па-рознаму асвятляюць суадносіны паміж фанемай і гукамі, у якіх яна праяўляецца ў моўнай плыні. Гэта тлумачыцца найперш тым, што фанемы, як і іншыя адзінкі мовы, маюць 2 спосабы існавання — у сістэме мовы, дзе яны знаходзяцца ў адносінах апазіцыі (проціпастаўлення адна адной), і ў тэксце, дзе яны рэалізуюцца ў канкрэтным гуку. У сувязі з гэтым адны даследчыкі вызначаюць і апісваюць фанему праз фаналагічную апазіцыю, другія — праз фаналагічную пазіцыю. Сутнасць першага спосабу, які атрымаў назву метаду кантрастнай дыстрыбуцыі, наглядна можна ўявіць праз проціпастаўленне пар слоў (іх называюць мінімальнымі парамі), якія адрозніваюцца толькі адным гукам. Напрыклад, словы *саду* і *с'аду* адрозніваюцца зычнымі [с] і [с'], якія проціпастаўляюцца ў аднолькавых фанетычных умовах па адной прыкмеце: цвёрдасць — мяккасць. Ужыванне гукаў у аднолькавых фанетычных умовах і служыць паказчыкам іх фанематычнасці. Прыкметы, паводле якіх проціпастаўляюцца гукі (у гэтым выпадку цвёрдасць — мяккасць), прынята называць дыферэнцыяльнымі. Усе астатнія фанетычныя прыкметы, якія, характарызуючы пэўную фанему, не ўдзельнічаюць ў проціпастаўленні яе іншым фанемам, лічацца інтэгральнымі. Дыферэнцыяльныя прыкметы даволі разнастайныя, але ў кожнай мове набор іх абмежаваны. Напрыклад, у беларускай мове прыкмета цвёрдасць — мяккасць зычных з'яўляецца дыферэнцыяльнай, а ў французскай яна інтэгральная. Адна і тая прыкмета можа быць дыферэнцыяльнай для адных фанем і інтэгральнай для іншых. Напрыклад, глухасць у беларускай мове дыферэнцыяльная для [х], бо ёсць апазіцыя з [г], і інтэгральная для [к].

Некаторыя вучоныя лічаць, што ў фаналагічны змест фанемы ўваходзяць толькі дыферэнцыяльныя прыкметы, а сама фанема вызначаецца ў такім разе як «пучок» дыферэнцыяльных прыкмет. Іншыя даследчыкі да істотных з фаналагічнага пункту погляду адносяць і інтэгральныя прыкметы на той падставе, што ў працэсе зносін для апазнання слова з'яўляюцца важнымі (хоць і не ў аднолькавай ступені) усе аб'ектыўныя характарыстыкі фанемы.

Тэорыя фаналагічных апазіцый распрацавана ў 1930-я гады М. С. Трубяцкім, які прапанаваў іх разгалінаваную класіфікацыю. Яго тэорыя зрабіла прыкметны ўплыў на развіццё фаналогіі. Аднак і сёння прырода і структура адрознівальных прыкмет, магчымасць іх упарадкаваць у тыпалагічным плане застаецца адной з дыскусійных тэм фаналогіі.

Фанемная ідэнтыфікацыя на аснове пазіцыйнага аналізу заснавана на тым, што фанема як абстрактная адзінка проціпастаўляецца гуку як канкрэтнай адзінцы, у якой яна рэалізуецца ў моўнай плыні. Адной фанеме можа адпавядаць некалькі розных рэалізацый, ці алафонаў, кожны з якіх суадносіцца з пэўнай пазіцыяй. Аднак фанемная прыналежнасць гукаў у розных пазіцыях вызначаецца вучонымі па-рознаму. Так, на адносінах пазіцыйнага чаргавання, калі фанема разглядаецца як рад гукаў, якія пазіцыйна чаргуюцца ў межах марфемы, заснавана вучэнне аб фанеме ў працах прадстаўнікоў маскоўскай фаналагічнай школы. Напрыклад, у словах *грыбы — грыбок — грыбе — грыб* гукі [б], [б$^{0}$], [б'], [п] з'яўляюцца алафонамі фанемы [б], паколькі яны знаходзяцца ў адносінах дадатковай дыстрыбуцыі ў залежнасці ад фанетычнай пазіцыі і займаюць адно і тое месца ў адной і той жа марфеме (пазіцыйна чаргуюцца). Вучоныя гэтай школы вылучаюць з функцыянальнага пункту погляду моцныя і слабыя пазіцыі ў залежнасці ад таго, дапамагаюць яны ці не выконваць фанеме яе сэнсаадрознівальную (сігніфікатыўную) функцыю і функцыю атаясамлівання (перцэптыўную) моўных адзінак. У пазіцыі, моцнай для абедзвюх функцый, паводле маскоўскай фаналагічнай школы, прадстаўлены асноўны алафон фанемы (найважнейшы гук у Джоунза), у сігніфікатыўна слабай — варыянт (паводле Аванесава — слабая фанема), у перцэптыўна слабай пазіцыі — варыяцыя (паводле Трубяцкога і Аванесава — варыянт, паводле Шчэрбы — адценне фанемы). Пры няпоўных пазіцыйных радах алафонаў, калі адсутнічае асноўны алафон і дакладнае фанемнае атаясамліванне немагчыма, вучоныя маскоўскай фаналагічнай школы ўводзяць асобную адзінку — гіперфанему. Напрыклад, у слове *сабака* галосны 1-га склада рэалізуе не звычайную «правяральную» фанему, а гіперфанему [а/о].

Змены гукавога аблічча слова ці марфемы інакш тлумачацца вучонымі ленінградскай фаналагічнай школы. Так, чаргаванне [б] — [б°] *(грыбы — грыбоў)* трактуецца як алафанічнае, а чаргаванне [б] — [п] *(грыбы — грыб)* — як чаргаванне фанем (гэта значыць фанемны склад слоў тыпу *грыб* і *грып* ці *коз* і *кос* аднолькавы). Прадстаўнікі пражскай лінгвістычнай школы лічаць, што ў апошнім выпадку маем справу з асобнай адзінкай фаналагічнага ўзроўню — архіфанемай, якой не ўласціва дыферэнцыяльная прыкмета звонкасць—глухасць, паколькі ў гэтай пазіцыі звонкія — глухія не проціпастаўляюцца. Значыць, там, дзе фанолагі маскоўскай і пражскай школ адзначаюць з'явы нейтралізацыі, фанолагі ленінградскай школы бачаць чаргаванне фанем, прызнаючы, аднак, вар'іраванне фанемы ў выглядзе адценняў.

Такім чынам, асноўнае разыходжанне ў тэорыі фанем звязана з крытэрыем фанемнай ідэнтыфікацыі гукаў маўлення — фізічнай ці функцыянальнай (у другім аспекце — фанетычнай ці марфемнай). У першым выпадку вучоныя апіраюцца на фанетычны крытэрый атаясамлівання, гэта значыць фанема трактуецца як аўтаномная адзінка мовы, якая ўяўляе сабой клас падобных гукаў, ці гукатып (Шчэрба, Зіндэр, Джоунз, некаторыя амерыканскія дэскрыптывісты), а асноўным кантэкстам рэалізацыі і фукцыяніравання фанемы з'яўляецца толькі фанетычнае слова (фанетычны сегмент); у другім выпадку (пры функцыянальна-марфематычным падыходзе) у цэнтры ўвагі знаходзіцца сэнсаадрознівальная функцыя фанемы, а асноўным кантэкстам функцыяніравання фанемы лічацца марфемы і словы. Фанема пры такім падыходзе не аўтаномная фанетычная адзінка, а будаўнічы кампанент марфемы, праз тоеснасць якой вызначаецца і тоеснасць фанемы ў розных яе праяўленнях.

Асноўныя палажэнні вучэння аб фанеме выкарыстоўваюцца і пры разглядзе суперсегментных з'яў: націску, інтанацыі, сінгарманізму і інш. Ідэі фаналогіі знаходзяць прымяненне ў тэорыі пісьма — графіцы і арфаграфіі, пры стварэнні алфавітаў, практычнай транскрыпцыі і транслітарацыі, а таксама пры апісанні з'яў словаўтварэння і граматыкі.

*Літ.:* Падлужны А. І. Фаналагічная сістэма беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1969; Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985.

*Л. І. Сямешка.*

## ФАНЕТЫКА

Фанетыка (ад грэч. phōnē гук, phōnētikos гукавы) — раздзел мовазнаўства, які вывучае гукавыя сродкі мовы. Да іх адносяцца гукі мовы, склады, націск, інтанацыя. Тэрмінам «фанетыка» называюць і сам гукавы лад мовы.

Аб'ектам фанетыкі, у адрозненне ад іншых раздзелаў мовазнаўства, з'яўляюцца адзінкі, прырода якіх матэрыяльная, таму фанетыка даследуе не толькі моўную функцыю, але і матэрыяльны бок свайго аб'екта: работу органаў маўленчага апарата, акустычныя характарыстыкі гукаў і асаблівасці ўспрымання іх носьбітамі мовы. У адпаведнасці з гэтым адрозніваюць: функцыянальную фанетыку, або фаналогію, у цэнтры ўвагі якой функцыянальна-моўны аспект гукаў, іх роля ў мове як сродку зносін (гл. **Фаналогія**); артыкулятарную фанетыку, якая асвятляе пытанні ўтварэння гукаў мовы; акустычную фанетыку, якая даследуе

фізічную прыроду гукаў; перцэптыўную фанетыку, што вывучае гукі з пункту погляду ўспрымання іх носьбітамі мовы. Усе 4 аспекты вывучэння гукавой матэрыі цесна звязаны паміж сабой і ўзаемна абумоўлены: гукі мовы пэўным чынам функцыяніруюць у мове і функцыянальна адрозніваюцца таму, што яны маюць адпаведныя акустычныя якасці, якія ў сваю чаргу ствараюцца органамі маўлення чалавека і залежаць ад іх дзейнасці ў час гаварэння. Суб'ектыўныя вобразы гукаў узнікаюць у свядомасці чалавека таксама на аснове аб'ектыўных характарыстык гукавой хвалі.

Фанетычнае вывучэнне гукавых сродкаў прадугледжвае выяўленне асноўных адзінак, апісанне іх фанетычных уласцівасцей і правіл ужывання ў мове. Асноўныя фанетычныя адзінкі падзяляюцца на сегментныя, або лінейныя,— гук, склад, фанетычнае слова, сінтагма, ці такт, фраза, якія вылучаюцца на аснове лінейнага члянення (сегментацыі) моўнай плыні, і суперсегментныя, або прасадычныя,— націск, інтанацыя, якія як бы накладваюцца на сегментныя адзінкі і служаць сродкам стварэння іх цэласнасці. Так, адзінства фразы ствараецца інтанацыяй, адзінства сінтагмы — інтанацыйным цэнтрам, адзінства фанетычнага слова — слоўным націскам, складовай рытмікай.

У залежнасці ад задач вывучэння гукавой матэрыі адрозніваюць фанетыку агульную, прыватную (сінхронную і дыяхронную) і параўнальную. Прадметам агульнай фанетыкі з'яўляецца тое агульнае, што складае гукавы бок усіх моў. Агульная фанетыка вывучае будову маўленчага апарата чалавека, на матэрыяле розных моў вызначае прыроду гукаў і агульныя прынцыпы члянення гукавой плыні на пэўныя адрэзкі, выяўляе заканамернасці спалучэння гукаў і ўзаемаўплыву суседніх гукаў (каартыкуляцыю, працэсы асіміляцыі, акамадацыі), прыроду склада, фанетычную арганізацыю слова, інтанацыйныя сродкі мовы.

Прыватная фанетыка разглядае ўсе гэтыя праблемы ў адносінах да канкрэтнай мовы. Яна можа быць апісальнай (сінхроннай) і гістарычнай (дыяхроннай). Апісальная фанетыка даследуе гукавы лад канкрэтнай мовы ў сінхронным плане, на пэўным этапе яе развіцця. Звычайна аб'ектам апісання з'яўляецца сучасны стан мовы, а прадметам гістарычнай фанетыкі — гукавы лад пэўнай мовы ў яго развіцці. Гістарычная фанетыка даследуе змены фанетычных адзінак у розныя эпохі, тлумачыць, як адбываліся гэтыя змены, якія гукавыя адзінкі былі ў мове раней і чым яны замяняліся пазней. Звесткі гістарычнай фанетыкі даюць важны матэрыял для разумення пэўных фанетычных з'яў на сучасным этапе.

Параўнальная фанетыка займаецца параўнальным вывучэннем гукавых сістэм дзвюх або некалькіх моў. Яна выяўляе падабенства і адрозненні ў гэтых мовах паводле складу гукаў, змен гукаў у моўнай плыні і інш. і тым самым вызначае спецыфіку гукавога ладу розных моў. Параўнальнае вывучэнне фактаў розных моў бывае неабходным пры вывучэнні чужой мовы або выкладанні роднай мовы ў іншамоўнай аўдыторыі. Параўнальная фанетыка цесна звязана з гістарычнай; параўнанне, напрыклад, роднасных моў дазваляе глыбей раскрыць факты гісторыі мовы.

Паколькі гукавыя адзінкі — з'ява акустыка-фізіялагічная, то пры іх вывучэнні фанетыка карыстаецца метадамі, якія прымяняюцца ў акустыцы і фізіялогіі. Як і гэтыя навукі, сучасная фанетыка выкарыстоўвае спецыяльныя тэхнічныя сродкі і разнастайныя прыёмы інструментальнага назірання, якія прынята называць эксперыментальна-фанетычнымі метадамі вывучэння. Да іх адносяцца: палатаграфія — фіксацыя месца кантакту языка з паднябеннем у час артыкуляцыі; кінафотаздымка рухаў губ, якія маюць істотнае значэнне для характарыстыкі гукаў; рэнтгеназдымка маўленчага апарата ў час артыкуляцыі; асцылаграфія, якая дазваляе вызначыць працягласць, частату, інтэнсіўнасць гука; спектраграфія, якая дае агульны акустычны малюнак гука. Фанетыка выкарыстоўвае таксама разнастайныя метады вывучэння ўспрыняцця тых ці іншых гукавых з'яў носьбітамі мовы, што з'яўляецца важным для іх фаналагічнай інтэрпрэтацыі.

Навуковым цэнтрам эксперыментальна-фанетычнага даследавання гукавога ладу беларускай мовы з'яўляецца Аддзел эксперыментальнай фанетыкі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі. Спецыялістамі гэтага цэнтра ўсебакова вывучаюцца артыкуляцыйныя і акустычныя асаблівасці гукаў беларускай мовы. Фанетычны бок беларускай мовы вывучаецца таксама ў фанетычнай лабараторыі на кафедры эксперыментальнай фанетыкі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта.

*Літ.:* Падлужны А. І., Чэкман В. М. Гукі беларускай мовы. Мн., 1973; Падлужны А. І. Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы. Мн., 1977; Фанетыка слова ў беларускай мове. Мн., 1983; Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984. *Л. І. Сямешка.*

## ФАНЕТЫКА І ПІСЬМО

Неабходнасць дыферэнцыраваць гук і літару ўзнікла ў глыбокай старажытнасці. Яна паўтаралася ў граматыках розных часоў і застаецца надзённай зараз. Кожны запісаны па правілах алфавіта гук — вынік нялёгкіх пошукаў і прыняцця рашэнняў.

Выдатны дзеяч беларускай культуры Ф. Скарына ўжо ў 1-й палове 16 ст. адлюстраваў у сваіх выданнях амаль усе асаблівасці, якія вылучаюць фанетычную сістэму беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў. Ён ішоў ад гукаў да літар, ужываў нетрадыцыйныя напісанні слоў і такім чынам садзейнічаў дакладнай пісьмовай перадачы беларускага вуснага слова.

Кожная літара алфавіта мае назву, у гука яе няма. Напрыклад, «аз» і «букі» — старыя назвы першых літар алфавіта. Зараз літара, якая абазначае гук [а], называецца не «аз», а «а», а літара, што перадае на пісьме гук [б], называецца не «букі», а «бэ». Такія спецыяльныя найменні для пісьмовых знакаў памагаюць размежаваць паняцці «гук» і «літара». Адрозненне гэтых паняццяў можна лепш зразумець, калі прыгадаць, што адзін і той жа гук па-рознаму можа перадавацца на пісьме. Мы пішам *А* вялікае ці *а* малое, бачым літары, надрукаваныя на машынцы або набраныя друкарскім спосабам, усё роўна ўсе гэтыя знакі на пісьме будуць перадаваць адзін галосны гук — [а]. Літару можна напісаць алоўкам, ручкай, фарбай. Калі памылкова яе напісалі, можам сцерці. Гук жа можна вымавіць ці пачуць. Яго можна абазначыць з дапамогай літар, але можна і запісаць на магнітафон. Пры гэтым магнітная стужка дазволіць пачуць, якім ён быў у момант свайго стварэння. Літара ж — толькі знак, з дапамогай якога паведамляецца, які гук перадае літара: [а], ці [о], ці [у].

У розных пазіцыях у слове гук [а] вымаўляецца неаднолькава: выразна працягла пад націскам, менш працягла і менш выразна ў ненаціскных складах, але ён перадаецца аднолькава літарай *а*.

Беларуская мова мае працяглую гісторыю. Добра вядомы пісьмовыя тэксты на старажытнабеларускай мове (Сымон Будны, Васіль Цяпінскі і інш.). У часы існавання Вялікага княства Літоўскага старабеларуская мова выконвала функцыі дзяржаўнай мовы. Але па меры таго, як гэта дзяржава траціла сваю палітычную самастойнасць, пагаршаліся і ўмовы развіцця пісьменства на беларускай мове.

З 2-й паловы 16 ст. на Беларусі пачалі распаўсюджвацца польская і лацінская мовы. Таму часам адзін і той жа дакумент часткова пісаўся на беларускай («рускай») мове, а часткова на польскай ці лацінскай. Лацінскую мову вывучалі не толькі ў каталіцкіх, але і ў праваслаўных брацкіх школах. Польская мова пачала выцясняць беларускую з афіцыйнага і нават прыватнага ўжытку. Да канца 17 ст. склаліся ўмовы для паўсюднай замены на пісьме беларускай мовы польскай. Ад-

нак запісы жывой беларускай гаворкі дайшлі да нас у інтэрмедыях да розных драматычных твораў 17—18 ст., якія пісаліся той графічнай сістэмай, якая выкарыстоўвалася ў тагачаснай польскай мове (гл. **Лацінка**). Выкарыстанне лацінкі патрабавала ўжывання розных камбінацый літар, надрадковых значкоў для абазначэння, напрыклад, мяккіх і шыпячых зычных. Непаслядоўнае ўжыванне лацінкі прыводзіла да скажэння асобных фанетычных рыс беларускай мовы [запіс *zart* («зарт») замест *żart* (жарт)]. У адрозненне ад беларускіх помнікаў кірылаўскага пісьма (гл. **Кірыліца**) выкарыстанне лацінскай графікі вымушала аўтараў беларускіх драматычных твораў 17—18 ст. апірацца на жывое вымаўленне. Аўтары больш уважліва пераводзілі гук у літару. У гісторыі станаўлення беларускай арфаграфічнай сістэмы адлюстраваліся мэтанакіраваныя і настойлівыя пошукі больш рацыянальных і зручных сродкаў перадачы гукавога ладу на пісьме з дапамогай графікі, якая фармулявала правілы перадачы жывой мовы пісьмовымі знакамі, вызначала суадносіны паміж літарамі і знакамі, адпаведнымі гукам або інтанацыйным з'явам.

Асноўныя графічныя сродкі — гэта літары, пунктуацыйныя знакі, дужкі розных тыпаў, знак націску, злучок, апостраф, знакі для абазначэння параграфаў. Графічны сэнс маюць і прамежкі паміж словамі і часткамі друкаванага тэксту (абзацы, ці чырвоныя радкі).

Сістэма графічных знакаў, з дапамогай якіх перадаецца маўленне на пісьме, не з'яўляецца нечым застылым, абавязковым. Сучасная беларуская літаратурная мова выкарыстоўвае кірыліцкі алфавіт, на якім пісаліся старажытнабеларускія тэксты і якім зараз карыстаюцца рускія, украінцы, балгары і некаторыя іншыя народы. Як вядома, з 14 ст. ў кітабах (гл. **Кітабы**) да нас дайшлі напісаныя арабскім пісьмом беларускія тэксты, якія перадавалі аканне, дзеканне, цеканне і іншыя спецыфічныя беларускія з'явы. Нарэшце, станаўленне графічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы новага перыяду было звязана з выкарыстаннем не толькі кірыліцкага, але і лацінскага алфавіта, відазмененага для польскай мовы. Польская мадыфікацыя лацінскага алфавіта знаходзіла прымяненне пры пошуку сродкаў адлюстравання гукавога ладу беларускай мовы на пісьме. Творы В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча, некаторыя зборнікі твораў Я. Купалы і Я. Коласа, а таксама іншых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў былі надрукаваны лацінкай. Але і арабскае пісьмо, і лацінскі алфавіт, як і кірыліца, абазначалі гукі беларускай мовы.

Звычайна ступень дасканаласці графічнай сістэмы вызначаецца тым, наколькі дакладна літары пісьма адпавядаюць гукам мовы. Ідэальнай лічыцца графіка, у якой кожная літара адпавядае асобнаму гуку, а кожны гук выражаецца асобным літарным знакам. Але такой графікі не існуе, бо практычна нельга ўсё мноства гукаў перадаць абмежаванай колькасцю літар. Больш за тое, няма і такой неабходнасці, таму што мэтай пісьма з'яўляецца перадача інфармацыі, сэнсу ў шырокім значэнні гэтага слова. А для вырашэння такой задачы неабходна не падрабязная перадача гукавога ладу, а дакладная перадача большасці з тых найменшых адзінак, якімі словы адрозніваюцца паводле сэнсу, гэта значыць фанем (гл. **Фаналогія**). Іх набор звычайна меншы, чым рэестр гукаў, якія існуюць у мове. Так, галосныя [а], [о], [у], [э], [і] здольныя адрозніваць словы, якія складаюцца з аднаго набору зычных, што ідуць у той самай паслядоўнасці: *кат — кот — кут — кіт*. Калі ж паспрабаваць адшукаць пары слоў, якія розняцца па сэнсе толькі галоснымі [ы] — [і], то высветліцца, што гэта немагчыма. Блізкія па гучанні словы з гэтымі галоснымі, якія дыферэнцыруюцца па сэнсе (*білі — былі, ніць — ныць*), адрозніваюцца не толькі галоснымі [ы] — [і], але і папярэднімі зычнымі. У слове *былі* [б] — цвёрды гук, а ў слове *білі* побач з [і] знаходзіцца адпаведны мяккі зычны [б']. Такім чынам, [ы], [і] — не самастойныя фанемы, а ўзаемазамяняльныя варыянты адной фанемы: пасля мяккіх зычных выступае [і], пасля цвёрдых — [ы].

Сукупнасць агульнапрызнаных і абавязковых правіл, якімі карыстаюцца пры перадачы вуснай мовы на пісьме, грунтуецца ў першую чаргу на фанетыка-фаналагічных ведах. Яны асабліва неабходныя пры стварэнні правіл перадачы на пісьме гукаў у складзе марфем і іх частак.

Пэўная разнароднасць правіл перадачы вуснага маўлення на пісьме абумоўлена тым, што беларуская арфаграфія складвалася працяглы час і выкарыстоўвала розныя прынцыпы. Аднак асноўным у беларускай арфаграфіі лічыцца фанетычны прынцып, які заключаецца ў адпаведнасці паміж гукамі і літарамі.

Найбольш паслядоўна ён вытрымліваецца пры фармулёўцы правіл перадачы на пісьме галосных гукаў, бо аканне і яканне, уласцівыя вуснаму беларускаму маўленню, знайшлі сваё замацаванне на пісьме. Напрыклад, вымаўленне гука, падобнага на [а], у першым пераднаціскным складзе на месцы [о] вядома ў беларускай і рускай мовах. Па-руску аднак гаворыцца б[а]р[а]да, м[а]л[а]ко, аднак пішацца *борода, молоко*, а беларускае напісанне адпавядае вымаўленню — *барада, малако*.

Фанетычнымі паводле сваёй сутнасці з'яўляюцца правілы перадачы на пісьме гука [ў], што ўзнік пры чаргаванні з [в], [л] і [у], прыставўных галосных, некаторых прыставак.

Правілы чытання зычных у беларускай мове больш падпарадкаваны марфалагічнаму прынцыпу, які забяспечвае аднолькавую перадачу на пісьме тоесных марфем (прыстаўкі, кораня, суфікса, канчатка). У залежнасці ад пазіцыі адна і тая ж марфема можа мець розны фанетычны выгляд, але на пісьме перадаецца аднолькава. Такім чынам, зычныя літары могуць мець рознае гукавое значэнне. Пры гэтым у некаторых выпадках яны абазначаюць гукі, якія адрозніваюцца ад асноўных, замацаваных за імі алфавітам, нават некалькімі прыкметамі. Разгледзім гукавое значэнне літары *с* у наступных словах: *стол* (глухі, цвёрды), *спіць* (с'п'іц') (глухі, мяккі) — *касьба* (каз'ба́) (*сь* абазначае звонкі мяккі [з']), *сшытак* (ш:ытак) (*сш* перадае шыпячы падоўжаны гук).

Гукавая шматзначнасць большасці зычных літар — вынік марфалагічнага прынцыпу, які выкарыстоўваецца пры перадачы зычных на пісьме. Але і ад марфалагічнага прынцыпу існуюць пэўныя адхіленні. Напрыклад, такая фанетычная з'ява, як сцяжэнне зычных на марфемных межах, часткова перадаецца на пісьме: *савецкі* (рускае *советский*), *Асіповіцкі* (рускае *Осиповичский*) і г. д.

Спецыфічнай задачай, што адлюстроўвае сувязь фанетыкі і пісьма, з'яўляецца таксама падзел вуснага маўлення пры запісе на пэўныя часткі: сказы і словы. Пастаноўка вялікай літары і знакаў прыпынку памагае вылучыць сказы, якія ў вусным маўленні аформлены суцэльна з дапамогай інтанацыі. Пры вырашэнні складанага пытання аб выдзяленні слова з моўнай плыні абапіраюцца на такую фанетычную прыкмету слова, як націск.

Вядома, што ў старажытнасці ў скорапісе тэксты не былі падзелены на словы. Да 16 ст. ў кірылаўскім пісьме падзел тэкстаў на словы не быў прыняты. З'яўленне вялікіх літар у сказах і прагалаў паміж словамі было звязана з кнігадрукаваннем. Самі правілы пастаноўкі прагалаў паміж словамі сфармуляваны яшчэ пазней, бо нават у кніжнаславянскай граматыцы Мялеція Смятрыцкага (1619), па якой вучыўся М. Ламаносаў, яны адсутнічалі (хоць сам аўтар практычна іх выкарыстоўваў).

Падзел тэксту на словы садзейнічаў лепшаму яго ўспрыманню і разуменню. Увядзенне такога падзелу паказвае, што, хоць пісьмо і абапіраецца на фанетычныя веды, яно мае сваю спецыфіку і сваю арганізацыю. Напрыклад, паводле гучання і значэння словаспалучэнне *дзень нараджэння* вельмі нагадвае складанае слова *месцанараджэнне*. Відаць, таму ў малодшых класах яно ўспрымаецца некаторымі вучнямі як адно слова *(Я хадзіў на*

*Танін дзень нараджэння, на яе дні-нараджэнні торт са свечкамі быў).* Раздзельнае напісанне слоў памагае лепш разумець тэкст.

Паглыбленае вывучэнне гукавых з'яў і шляхоў да іх увасаблення ў пісьмовай форме спрыяе ўдасканальванню арфаграфіі. Яна — крыніца далейшага развіцця літаратурнай мовы.

*Літ.:* Карский Е. Ф. Белорусы. Язык белорусского народа. Вып. 1. Исторический очерк звуков белорусского языка. М., 1955; Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. Мн., 1984; Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. 2 выд. Мн., 1984; Камароўскі Я. М., Сямешка Л. І. Сучасная беларуская мова: Фанетыка і фаналогія. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Мн., 1985; Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Беларуская мова: Цяжкія пытанні фанетыкі, арфаграфіі, граматыкі. Мн., 1987.

*Л. Ц. Выгонная.*

## ФАНЕТЫЧНЫ РАЗБОР

Пры фанетычным разборы вызначаецца колькасць складоў, гукаў і літар у слове, націскны склад, называюцца гукі і літары, даецца характарыстыка кожнаму гуку. Гэта паглыбляе і замацоўвае веды па фанетычнай будове слова, развівае навыкі аналізу вуснай мовы, памагае правільна перадаваць яе на пісьме. Пры разборы неабходна кіравацца метадычным патрабаваннем: праводзіць аналіз «ад гука да літары», гэта значыць, спачатку вылучыць гукі ў слове, ахарактарызаваць іх, а потым назваць літары, з дапамогай якіх яны абазначаны. Фанетычнаму разбору павінен папярэднічаць падрыхтоўчы этап: азнаямленне з патрабаваннямі фанетычнай транскрыпцыі (у школе падаюцца агульныя звесткі пра транскрыпцыю), заканамернасцямі складападзелу, тыпамі націску, класіфікацыяй галосных і зычных гукаў, правіламі беларускай арфаэпіі. Каб правільна транскрыбіраваць словы (дакладна перадаваць іх гукавы склад), неабходна не толькі ведаць умоўныя знакі і правілы іх выкарыстання, але і добра валодаць нормамі беларускага літаратурнага вымаўлення. Пры падзеле на склады найбольшую цяжкасць выклікаюць словы са збегам 2 і больш зычных паміж галоснымі (у інтэрвакальным становішчы). Склады, якія абазначаюцца літарамі *е, ё, ю, я, і* або пачынаюцца імі, называюцца прыкрытымі: [йэ]*-хаць, ма-*[йо], *сва-*[йу], *тва-*[йа], *салаў-*[йі]; [йэ]*л-ка,* [йо]*д,* [йа]*м-ка,* [йі]*н-шы.* Націскны [і] ў пачатку слова (марфемы), а таксама [і] пасля галоснага, [ў], апострафа ці мяккага знака вымаўляецца з ётавым элементам [й]: [йі]*х, аб'-*[йі]*нець, кра*[йі] *на, выслоў*[йі], *вераб'*[йі], *у Іль*[йі].

Каб дакладна вызначыць гукавы склад слова, неабходна ўлічваць такія фанетычныя змены (працэсы), як асіміляцыя, аглушэнне звонкіх на канцы слова, сцяжэнне зычных. Напрыклад, у слове *просьба* літара *с* абазначае звонкі [з'], які вымаўляецца ў выніку асіміляцыі па звонкасці (пад уплывам звонкага [б], параўнайце: *пра-*[с']*іць).*

Для фанетычнага разбору мэтазгодна падбіраць словы, якія адлюстроўваюць фанетычныя асаблівасці беларускай мовы, напрыклад аканне і яканне, дзеканне і цеканне, вымаўленне [ў], [г] (шчыліннага), толькі цвёрдых [дж], [ч] і [р], цвёрдых губных на канцы слова, прыстаўных галосных і зычных, падоўжаных зычных. Фанетычны разбор варта пачынаць з простых слоў, у якіх гукі абазначаюцца «сваімі» літарамі (*вада, мора, жоўты, блакітны, пішу, кажу* і пад.). Затым паступова можна ўскладняць разбор, разглядаць словы, у якіх:

а) літары *е, ё, ю, я, і,* апрача галосных гукаў, абазначаюць мяккасць папярэдніх зычных (*лес* — [л'э]*с, нёс* — [н'о]*с, люк* — [л'у]*к, сяду* — [с'а]*ду, мір* — [м'і]*р);*

б) спалучэнне двух гукаў: [й] + адпаведны галосны *(ежа* — [йэ]*жа, ёрш* — [йо]*рш, юнак* — [йу]*нак, станцыя — станцы*[йа], *сваіх — сва-*[йі]*х);*

в) звонкія зычныя знаходзяцца на канцы слова (*горад — гора*[т]), перад глухімі *(кніжка — кні*[шк]*а)* і, наадварот, глухія перад звонкімі (*касьба — ка*[з'б]а);

г) шыпячыя перад свісцячымі (*на рэчцы — на рэ*[цц]*ы — на рэ*[ц̄]*ы),* а свісцячыя перад шыпячымі (*зжаць* — [жж]*аць* — [ж̄]*аць);*

д) мяккія зычныя вымаўляюцца пад уплывам наступных мяккіх (*песня — пе*[с'н']*я).*

Паводле аб'ёму фанетычны разбор бывае поўны, які прадугледжвае ўсебаковую фанетычную характарыстыку слова, і частковы — з выбарачнай характарыстыкай гукаў (напрыклад, пачатковых або канцавых, галосных або зычных), падзелам слова на склады і інш.

**Прыкладны парадак фанетычнага разбору**

У ВНУ:

1. Запіс слова з дапамогай фанетычнай транскрыпцыі.
2. Падзел на склады, колькасць і тыпы складоў (адкрыты ці закрыты, прыкрыты ці непрыкрыты), націскны склад.
3. Тып націску (рухомы ці нерухомы).
4. Характарыстыка гукаў:

1) галосных: а) паводле націску (адзначыць націскны гук); б) удзелу губ, месца пад'ёму языка, ступені пад'ёму языка; в) з улікам спосабу графічнага абазначэння;

2) зычных: а) паводле ўдзелу голасу і шуму, спосабу ўтварэння, месца ўтварэння, цвёрдасці-мяккасці, працягласці (калі падоўжаны гук, адзначыць гэта); б) з улікам спосабу графічнага абазначэння.

5. Колькасць гукаў і літар.

У школе:

1. Напісанне слова.
2. Колькасць складоў, месца націску (націскны склад).
3. —
4. Характарыстыка гукаў:

1) галосных: націскныя ці ненаціскныя, якімі літарамі абазначаны; 2) зычных: звонкія ці глухія, свісцячыя ці шыпячыя, цвёрдыя, мяккія ці зацвярдзелыя, якімі літарамі абазначаны.

5. Колькасць гукаў і літар.

**Узор разбору**

1. [йэждж̑у].
2. Два склады: [йэ] — адкрыты, прыкрыты, націскны; [жджу] — адкрыты, прыкрыты.
3. Нерухомы націск (параўнайце: *ёзджу, ёздзіш, ёздзім, ёздзіце).*
4. [й] — зычны, санорны, шчылінны, сярэднеязычны, толькі мяккі; абазначаны разам з наступным [э] літарай *е*[е].

[э] — галосны, націскны, нелабіялізаваны, пярэдняга рада, сярэдняга пад'ёму; абазначаны разам з папярэднім [й] літарай *е*[е].

[ж] — зычны, шумны, звонкі, шчылінны, пярэднеязычны, пярэднепаднябенны, толькі цвёрды; абазначаны літарай *з*[зэ];

[дж] — зычны, шумны, звонкі, змычна-шчылінны, пярэднеязычны, пярэднепаднябенны, толькі цвёрды; абазначаны літарай *дж* [джэ].

[у] — галосны, лабіялізаваны, задняга рада, верхняга пад'ёму; абазначаны літарай *у*[у].

5. У слове 5 гукаў і 4 літары.

1. *Езджу.*
2. У слове два склады; націск падае на першы склад [ёз-джу].
3. —
4. [й] — зычны, звонкі, мяккі (не мае парнага цвёрдага); абазначаны разам з наступным [э] літарай *е*[е].
[э] — галосны, націскны, абазначаны разам з папярэднім *й* літарай *е*[е].
[ж] — зычны, шыпячы, зацвярдзелы; абазначаны літарай *з* [зэ].
[дж] — зычны, звонкі, шыпячы, зацвярдзелы; абазначаны літарамі *д*[дэ] *і ж*[жэ].
[у] — галосны, ненаціскны; абазначаны літарай *у* [у].
5. У слове 5 гукаў і 5 літар.

*Літ.:* Піскун У. Ц. Фанетычны разбор на ўроках беларускай мовы // Выкладанне беларускай мовы і літаратуры: Кн. для настаўніка. Мн., 1983; Садоўскі П. В. Фанетычны разбор слова // Нар. асвета. 1984. № 9; Варановіч З. Б. Методыка выкладання беларускай мовы. Мн., 1985; Кечык С. Я., Рагаўцоў В. І. Моўны разбор у ВНУ і ў школе: Схемы, узоры, заданні. Мн., 1988.

*В. І. Рагаўцоў.*

## ФАНЕТЫЧНЫЯ ЗАКОНЫ

Фанетычныя законы — гэта рэгулярныя гукавыя змены, якія адбываюцца ў адной мове ў розныя перыяды развіцця або паралельна ў некалькіх роднасных мовах; правілы, што вызначаюць умовы, час і пашыранасць пэўнага фанетычнага змянення або шэрага аднародных фанетычных змяненняў у нейкай мове; формула пераходаў (змяненняў) і адпаведнасцей для гука (або гукаў) у пэўнай мове (або мовах) у канкрэтны перыяд іх развіцця. Напрыклад, пасля страты рэдукаваных гукаў [ъ] і [ь] (якія былі ў старажытнабеларускай мове і гучалі як галосныя няпоўнага ўтварэння) у 12—13 ст. праходзіў працэс паступовага азванчэння (або аглушэння) глухіх (звонкіх) зычных, якія апынуліся па суседстве са звонкімі (або з глухімі); *събоку→сбоку→збоку*. У выніку страты рэдукаваных — з'явы, якая мела заканамерны характар,— узніклі групы зычных і адбыліся розныя змены зычных гукаў: *късде→кдзе→дзе* (у беларускай мове [к] адпаў, у рускай мове ён супаў з парным звонкім: *късде→где*); *дъхоръ→→дхор→тхор* (звонкі [д] прыпадобніўся да глухога перад [х], у рускай мове *дъхорь→хорь* [т] адпаў). Вынікі страты рэдукаваных *ъ, ь* пры кансанантызме маюць заканамерны характар і сваю спецыфіку ў кожнай усходнеславянскай мове, бо вынікі дзеяння адных і тых жа фанетычных законаў у роднасных мовах могуць быць не толькі аднолькавымі, але і рознымі. Напрыклад, ва ўсіх усходнеславянскіх мовах у выніку фанетычных змяненняў пісьмовай эпохі ўзніклі новыя закрытыя склады. У беларускай і украінскай мовах узніклі падоўжаныя зычныя (беларускае *вяселле*, украінскае *весілля*, рускае *веселье*) і чаргаванні *ро — ры, ло — лы, ле(ля) — лі* (беларускае *крой — у крыві;* украінскае — *у криви*, рускае *кровь — в крови*). У беларускай і рускай мовах адбыўся пераход [э̂] → [ô] у словах тыпу *зялёны, вясёлы, усё* (рускае *зелёный, весёлый, всё;* украінскае *зелений, веселий, усе*). Толькі ў беларускай мове назіраецца страта канцавога *j* у формах тыпу *лепшы, такі, сёмы, смачны* (рускае *такой, седьмой*, украінскае *такий, сьомий);* паслядоўнае зацвярдзенне [р] (беларускае *рака*, украінскае *ріка*, рускае *река*).

Фанетычныя законы нельга атаясамліваць з матэматычнымі законамі або з законамі прыроды, бо мова — грамадска-гістарычная з'ява, і фанетычныя законы не маюць абсалютнага характару, дзейнічаюць толькі ў пэўны час і ў пэўнай групе моў. Напрыклад, закон адкрытых складоў, паводле якога кожны склад заканчваўся на складаўтваральны гук, дзейнічаў у агульнаславянскай мове і спыніў сваю дзейнасць яшчэ ў дапісьмовую эпоху, хоць вынікі яго дзейнасці засталіся ў мове (былое **дадмь* змянілася на *дамь* з каранёвым *да-*).

Узнікненне рэгулярных гукавых змен у мове звычайна выклікана ўнутранымі тэндэнцыямі развіцця мовы або ўплывам іншых моў і дыялектаў. Іх вызначэнне вельмі карысна для разумення фанетычнай сістэмы мовы, а таксама для практычнага авалодання другой мовай. Напрыклад, для асобы, якая валодае рускай мовай і будзе вывучаць беларускую, важна ведаць, што рускім гукам [р], [р'] адпавядае адзін беларускі гук [р].

Граматысты розных часоў імкнуліся растлумачыць законы арганізацыі гукавога ладу мовы. Ужо ў 1748 г. В. К. Традзьякоўскі ў кнізе «Размова расійскага чалавека з чужаземным пра артаграфію» звярнуў увагу на пэўныя фанетычныя ўзаемазалежнасці і асэнсаваў строгую рэгулярнасць фанетычных з'яў. Ён заўважыў адпаведнасць замены націскнога [ó] ненаціскным гукам [а] і падкрэсліў універсальны характар гэтай з'явы. Акрамя таго, упершыню ва ўсходнеславянскай лінгвістыцы ім былі апісаны законы пазіцыйных змен звонкіх і глухіх зычных у канцы слова і перад іншымі зычнымі.

А. Х. Вастокаў у працах «Этымалагічны слоўрасклад» і «Карэнныя і першаўзорныя словы мовы славенскай», якія не былі апублікаваны, звярнуў увагу на гукавыя адпаведнасці ў розных славянскіх мовах. Вызначэнне такіх паралеляў было асэнсавана як найважнейшы метадычны прынцып параўнальна-гістарычных даследаванняў, які захаваў сваё значэнне і дасюль. Па сутнасці, гэта фармуляваліся фанетычныя законы, дзейнасць якіх пашыралася на групы роднасных моў. Для беларусістыкі асабліва важным з'яўляецца вывад, што ўжо ў глыбокай старажытнасці паміж славянскімі мовамі існавалі дыялектныя адрозненні, якія праяўляліся не столькі ў граматычных формах, колькі, паводле Вастокава, у адрозненні вымаўлення і ўжывання лексем, тоесных па паходжанні.

Многа ўвагі ўдзялялі вывучэнню фанетычных законаў ў 1870-я гады младаграматыкі, якія лічылі, што фанетычныя законы дзейнічаюць без выключэння, калі на іх не ўплываюць іншыя фанетычныя законы або аналогія. І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ ў праграмах сваіх лекцый («Падрабязная праграма лекцый у 1877—78 навучальным годзе», 1879) падкрэсліваў, што гукі змяняюцца фанетычна заканамерна і аднолькава ва ўсіх словах, якія маюць аднолькавае асяроддзе. Аднак у некаторых граматычных формах гэта змяненне можа не назірацца з-за ўздзеяння іншых граматычных форм. Бадуэн дэ Куртэнэ ўпершыню вызначыў і класіфікаваў сінхронныя гукавыя чаргаванні, вылучыў сярод іх граматычныя, уласцівыя і прадуктыўныя толькі для пэўных форм.

Бадуэн дэ Куртэнэ выяўляў агульныя прыкметы і ў няроднасных мовах і пры гэтым вялікую ўвагу звяртаў на фанетыку — «фанетычны цэмент». Ён сцвярджаў, што і ў мовах рознай марфалагічнай будовы фанетычныя законы ў агульных рысах аднолькавыя. Напрыклад, чаргаванне [к] — [ч] (беларускае *пяку — пячэш)* — характэрная фанетычная прыкмета і для індаеўрапейскіх (славянскіх, раманскіх, германскіх), і фіна-угорскіх, і семіцкіх моў. Гэты тып чаргавання настолькі пашыраны, што Бадуэн дэ Куртэнэ прапанаваў яму найменне — «агульначалавечая моўная з'ява», гэта значыць моўная універсалія. З іншых тыпалагічных асаблівасцей у галіне фанетыкі няроднасных моў ён адзначаў знікненне звонкіх выбухных зычных у дацкай і эстонскай мовах, рэгрэсіўны кірунак асіміляцыі ў індаеўрапейскіх мовах і прагрэсіўны — у фіна-угорскіх і ўрала-алтайскіх мовах.

Ідэя стварэння статыстычнай тыпалогіі гукавых сістэм славянскіх моў, прыярытэт якой належыць Бадуэну дэ Куртэнэ, не страціла сваёй надзённасці і зараз. Ён заўважыў, што паводле статыстычных падлікаў украінская і чэшская мова характарызуецца шырокім ужываннем галоснага [і], польская — галоснага [е] і г. д. У беларускай мове асаблівае месца ў фанетычным ладзе займае галосны [а].

Вывучэнне фанетычных законаў у гістарычным і тыпалагічным планах спрыяе разуменню спецыфікі і паходжання сучасных гукавых з'яў кожнай мовы — як выніку яе працяглага развіцця. Пры гэтым кожны перыяд стварае што-небудзь новае і непрыкметна пераходзіць у наступны адрэзак часу. Механізм функцыяніравання мовы абумоўлены ўсёй папярэдняй гісторыяй і вызначае яе далейшае развіццё. Таму ўстанаўленне фанетычных законаў уваходзіць у лік галоўных задач лінгвістыкі.

*Літ.:* Шухардт Г. О фонетических законах // Шухардт Г. Избранные статьи по языкознанию: Пер. с нем. М., 1950; Бодуэн де Куртенэ И. А. Фонетические законы // Избранные труды по общему языкознанию. М., 1963. Т. 2; Реформатский А. А. Введение в языкознание. 4 изд. М., 1967; Янкоўскі Ф. Гістарычная граматыка беларускай мовы. 2 выд. Мн., 1983. *Л. Ц. Выгонная.*

## ФАНЕТЫЧНЫЯ ПРАЦЭСЫ

Фанетычныя працэсы — змены гукаў у межах фанетычнага слова пад уздзеяннем суседніх гукаў або агульных умоў вымаўлення (уплыў пачатку або канца слова, націску, характару склада). Найбольш характэрнымі для

беларускай мовы фанетычнымі працэсамі з'яўляюцца акамадацыя, асіміляцыя, дысіміляцыя, рэдукцыя, метатэза, пратэза, эпентэза, дыярэза, гаплалогія, кантракцыя.

Акамадацыя (лац. accomodatio) — прыстасаванне артыкуляцыі зычных і галосных гукаў, якія стаяць у моўнай плыні побач. Паколькі кожны гук мовы складаецца з экскурсіі (пачатковага ўчастка), вытрымкі (найбольш характэрнай часткі гучання) і рэкурсіі (канцавога ўчастка), акамадацыя найчасцей выражаецца ў змене экскурсіі і рэкурсіі. Калі артыкуляцыя наступнага гука змяняецца пад уплывам папярэдняга, акамадацыя з'яўляецца прагрэсіўнай. У беларускай мове прагрэсіўная акамадацыя назіраецца паміж папярэднімі мяккімі зычнымі і наступнымі галоснымі гукамі, пачатак якіх характарызуецца і-падобным пераходным элементам, у выніку чаго рад любога галоснага ссоўваецца ў больш пярэднюю зону. У дыялектнай мове ў выніку паслаблення акамадацыі гэты пераходны элемент можа набываць значэнне самастойнага гука (параўнайце літаратурнае *пята, мяса* і дыялектнае *пйата, мйаса*). Пры ўплыве наступнага галоснага на папярэдні зычны адбываецца рэгрэсіўная акамадацыя, яе яскравы прыклад — агубленне зычных перад наступнымі лабіялізаванымі галоснымі [о] або [у]. Так, у складах *со-* *сту-* і г. д. зычныя гукі ўжо вымаўляюцца пры выцягнутых уперад і акругленых губах, што можна назіраць у люстэрка. У складах з неагубленымі галоснымі [а], [э], [ы] папярэднія зычныя вымаўляюцца пры нейтральным становішчы губ. Перад мяккімі зычнымі канцавы ўчастак папярэдняга галоснага больш пярэдняга рада, чым перад цвёрдымі. Калі ўзяць формы *села* і *селі* і вымавіць толькі першы склад *се-*, а другі склад не вымаўляць, то носьбіты беларускай мовы лёгка ўгадваюць, які склад быў не вымаўлены: *-ла* ці *-лі*.

Асіміляцыя (лац. assimilatio) — прыпадабненне зычных да зычных і галосных да галосных у межах слова. Прыпадабненне можа быць поўным і няпоўным, таму адрозніваюць поўную і няпоўную асіміляцыю. У выніку поўнай асіміляцыі ў беларускай мове ўтварыліся падоўжаныя зычныя: *каменне* з былога *каменьйе*, *калоссе* з былога *колосьйе* і г. д. Поўнай асіміляцыі падлягаюць шыпячыя і свісцячыя, выбухныя і афрыкатыўныя зычныя, калі яны стаяць побач: [ш]*шытак* (сшытак), *купае*[сь]*ся* (купаешся), *купае*[ц]*ца (з купаетца)*, *а*[ч]*чэпка* (з атчэпка) і г. д. Пры няпоўнай асіміляцыі зычныя або галосныя прыпадабняюцца па адной або некалькіх прыкметах, захоўваючы пэўнае адрозненне паміж сабой. Так, зычныя [с], [з], [ц], [д], [н], [т] у становішчы перад мяккімі зычнымі становяцца таксама мяккімі: *сьнег, зьмена, цьвік, маньцёр, дзьверы, цьвёрды* і г. д. Глухія перад звонкімі зычнымі азванчаюцца, а звонкія перад глухімі аглушаюцца: *казьба* — корань *кась-*, *ношка* — корань *нож-* і г. д.

Асіміляцыя, як і акамадацыя, можа быць прагрэсіўная і рэгрэсіўная. Прагрэсіўная асіміляцыя, калі гук прыпадабняецца да папярэдняга, у беларускай мове з'ява рэдкая. У выніку прагрэсіўнай асіміляцыі ўтварыліся падоўжаныя зычныя. Да рэгрэсіўнай асіміляцыі, калі папярэдні гук прыпадабняецца да наступнага, адносяцца прыпадабненні зычных па глухасці — звонкасці, цвёрдасці—мяккасці, шыпячых і свісцячых, выбухных і афрыкатыўных: *даро*[ж]*ны* — *даро*[ш]*ка*, [з]*рабіць* — [зь]*мяць*, [с]*пытаць* — [ш]*шыць*, *ля*[т]*аць* — *лё*[ч]*чык*.

Разгледжаныя вышэй выпадкі асіміляцыі з'яўляюцца кантактнымі, бо гукі, якія прыпадабняюцца, стаяць побач. Але ў некаторых выпадках могуць прыпадабняцца гукі, паміж якімі ёсць іншыя гукі. Гэта з'ява называецца дыстактнай асіміляцыяй. Напрыклад, у некаторых гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту вымаўляюць *музукант*, дзе другі гук [у] узнік у выніку асіміляцыі [ы] да папярэдняга [у], паміж якімі ёсць гук [з].

Дысіміляцыя (лац. dissimilatio) — распадабненне зычных або галосных па якой-небудзь прыкмеце. Дысіміляцыя, як і асіміляцыя, можа быць прагрэсіўная і рэгрэсіўная, кантактная і дыстактная. Так, літаратурнае *калідор* і вытворныя ад яго ўзніклі ў выніку запазычання з французскай мовы (відаць, праз рускую) *corridor* і дыстактнай рэгрэсіўнай дысіміляцыі гука [р]. Але найбольшае пашырэнне ў беларускай мове мае рэгрэсіўная дыстактная дысіміляцыя галосных, галоўным чынам у паўночна-ўсходнім дыялекце, які характарызуецца дысіміляцыйным аканнем і яканнем. Параўнайце вымаўленне літаратурнага *вада, вясна* і дыялектнага *выда, вісна*. Прыкладамі кантактнай дысіміляцыі можна назваць дыялектнае вымаўленне *бонба*, дзе губны [м] пад уплывам наступнага губнога [б] замяніўся на зубны [н], прастамоўнае *транвай*.

Рэдукцыя (лац. reductio) — скарачэнне і змяненне гучання ненаціскных складоў і найперш галосных гэтых складоў. Бывае колькасная і якасная. Пры колькаснай рэдукцыі змяняецца даўжыня (час гучання) гука. Галосныя першага пераднаціскнога склада ў беларускай мове карацейшыя, чым такія галосныя націскнога склада. Галосныя іншых пераднаціскных і занаціскных складоў гучаць меншы час, чым галосны першага пераднаціскнога склада. Галосны канцавога закрытага склада звычайна карацейшы за галосны канцавога адкрытага склада. Якасная рэдукцыя, якая найчасцей суправаджаецца колькаснай, прыводзіць да змены вымаўлення гука і ён звычайна ўспрымаецца не так, як гук без рэдукцыі. У паўночна-ўсходнім дыялекце беларускай мовы гук [а] ў першым пераднаціскным складзе ў словах тыпу *вадá, травá*, дзе пад націскам таксама *а* гучыць як [ы] або як рэдукаваны: *в*[а]*дý*, *в*[а]*дзé*, але *в*[ъ]*дá* або *в*[ы]*дá*. Звычайна бывае вынікам моцнай колькаснай рэдукцыі. Для беларускай літаратурнай мовы характэрна пераважна толькі колькасная рэдукцыя. Але пад уплывам дыялектаў, дзе назіраюцца абодва віды рэдукцыі, у яе пранікае і якасная рэдукцыя, калі не толькі скарачаецца час гучання ненаціскных галосных гукаў, але яны змяняюць і сваё гучанне.

Метатэза (грэч. metathesis) найчасцей назіраецца пры запазычанні слоў іншых моў і ў дзіцячай мове. Так, слоўнікі літаратурнай мовы фіксуюць 2 словы *футляр* і *футарал* з адным і тым значэннем, якое запазычана з нямецкага Futteral. Відавочна, што слова *футляр* узнікла з *футарал* у выніку перастаноўкі [р] і [л]. З нямецкага Taller утварылася беларускае *талерка* і ў выніку метатэзы рускае *тарелка*.

Пратэзы (грэч. prothesis), або прыстаўныя гукі,— гэта зычныя або галосныя гукі, якія з'яўляюцца ў пачатку слова ў пэўных фанетычных умовах (*вуліца* з *уліца, ільвы* з *львы* і г. д.). Галоснымі пратэзамі ў беларускай мове выступаюць [і], [а], зычнымі — [в], [г], [й] (больш падрабязна гл. ў арт. **Прыстаўныя гукі**).

Эпентэза (грэч. epenthesis) — устаўка звычайна зычных гукаў у сярэдзіну слова ў выпадку збегу двух галосных пры запазычаннях. У беларускай мове ў ролі эпентэз найчасцей выступаюць зычныя [в], [й]. З дапамогай эпентэзы [в] утварыліся словы *Лявон, Ларывон*, а таксама дыялектныя *рáдзіва, какава* (не блытаць з *кава*, якое з'яўляецца запазычаннем з польскай мовы). Эпентэза [й] вельмі пашырана ў запазычаных словах пры збегу галосных [іо], [іе], [іа]: *аксіёма, радыё, кліент, дыета, біялогія, хімія*. Зрэдку эпентэза трапляецца ў дыялектнай мове паміж зычнымі: параўнайце дыялектнае *страмніца* і літаратурнае *сарамніца*. Неабходна адзначыць таксама з'яўленне галоснай эпентэзы [е], [а] ці больш зрэдукаванага гука ў шэрагу канцавых спалучэнняў зычных: *рубель, жураветь, вецер* (з ветръ), *метар* або *метър, спектакль* або *спектакъль* і г. д. Некаторыя з іх замацаваліся з эпентэзай у літаратурнай мове.

Дыярэза (грэч. diairesis) — з'ява, процілеглая эпентэзе, заключаецца ў выпадзенні асобных гукавых элементаў. У беларускай лінгвістыцы дыярэзу часцей называюць спрашчэннем груп зычных [здн], [стн], [рдц], [рдн], [слн], [згн] і г. д.:

*позна, абласны, сэрца, міласэрны, наўмысны, бразнуць* і г. д. У дыялектнай мове дыярэза назіраецца і паміж галоснымі, у выніку чаго 2 аднолькавыя галосныя апынаюцца побач: *вясёлаа* — літаратурнае *вясёлая, годнаа* — літаратурнае *годная* і г. д.

Асобным відам дыярэзы з'яўляецца гаплалогія (ад грэч. gaplos просты і logos веды, слова), калі са слова выпадае адзін з аднолькавых складоў. Так, слова *мінералогія* ўжываецца замест *мінералалогія, марфаналогія* — *морфафаналогія*.

Кантракцыя (лац. contractio) — сцяжэнне двух або некалькіх гукаў у адзін. У беларускай літаратурнай мове кантракцыя зычных назіраецца пры словаўтварэнні. Так, на стыку кораня, які заканчваецца на [к], [ч], [ц], [т], і суфікса *-ск-* у выніку частковай асіміляцыі і кантракцыі рэгулярна ўтвараецца зычны [ц]: *казак+скі=казацкі, ткач+ +ск=ткацкі, купец+ск=купецкі* і г. д. *А. І. Падлужны.*

## ФІЛІН ФЯДОТ ПЯТРОВІЧ

Рускі мовазнавец Ф. П. Філін нарадзіўся 23 сакавіка 1908 г. ў в. Селіна Дубенскага раёна Тульскай вобласці. Член-карэспандэнт АН СССР (1962). Доктар філалагічных навук (1947), прафесар (1948). У 1931 г. закончыў Маскоўскі педагагічны інстытут. Ганаровы доктар Ягелонскага універсітэта ў Кракаве (1976) і іншых замежных універсітэтаў. У 1964—68 гг. дырэктар Інстытута мовазнаўства АН СССР, у 1968—82 гг.— Інстытута рускай мовы АН СССР. У 1971—82 гг. галоўны рэдактар часопіса «Вопросы языкознания». Буйны тэарэтык і практык у галіне рускай лексікаграфіі. Адзін з укладальнікаў і старшыня рэдкалегіі 17-томнага «Слоўніка сучаснай рускай літаратурнай мовы» (1948—65, Ленінская прэмія 1970), ініцыятар і галоўны рэдактар «Слоўніка рускіх народных гаворак» (вып. 1—23, 1965—87). Навуковыя працы па гістарычнай лексікалогіі і лексікаграфіі рускай мовы, нармалізацыі і культуры рускай мовы, этнагенезе славян, дыялекталогіі і лінгвістычнай геаграфіі, агульным мовазнаўстве і сацыяльнай лінгвістыцы. Памёр 5 мая 1982 г. ў Маскве.

У працах Ф. П. Філіна атрымалі асвятленне многія з'явы гісторыі беларускай мовы. У манаграфіях «Нарыс гісторыі рускай мовы да XIV стагоддзя» (1940) і «Лексіка рускай літаратурнай мовы старажытнакіеўскай эпохі: (паводле матэрыялаў летапісаў)» (1949) ён даў апісанне лексікі старажытнарускай мовы як зыходнага этапу ў гісторыі слоўнікавага складу сучасных усходнеславянскіх моў. У манаграфіі «Утварэнне мовы ўсходніх славян» (1962) даследаваў гісторыю моўных фактаў, пачынаючы ад эпохі распаду індаеўрапейскага моўнага адзінства і заканчваючы ўтварэннем моў усходніх славян, у т. л. і беларускай. Многія факты беларускай мовы глыбока асветлены ў яго кнізе «Паходжанне рускай, украінскай і беларускай моў: Гісторыка-дыялекталагічны нарыс» (1972, прэмія імя А. С. Пушкіна Прэзідыума АН СССР, 1975). З улікам дасягненняў сучаснага ўсходнеславянскага мовазнаўства ў кнізе апісаны такія з'явы, як аканне, гісторыя фанемы ѣ (яць), пераход *е* ў *о*, лёс *о* і *е* ў новых закрытых складах, змяненні спалучэнняў плаўных з рэдукаванымі галоснымі, рэфлексы рэдукаваных *ы* і *і*, узнікненне і пашырэнне фрыкатыўнага і фарынгальнага *г*, білабіяльны *w*, пратэтычныя зычныя, дзеканне і цеканне, падаўжэнне зычных, зацвярдзенне губных *і р*, пераход *л* у *ў* і іншыя з'явы. Для даследчыкаў беларускай літаратурнай мовы пэўнае значэнне мае яго праца «Вытокі і лёсы рускай літаратурнай мовы» (1981).

*Літ.*: Ф. П. Филин. М., 1978 (Материалы к библиогр. ученых СССР. Сер. лит. и языка; Вып. 12); Иванов В. В., Трубачев О. Н. Ф. П. Филин (1908—1982) // Вопр. языкознания. 1982. № 4. *А. І. Жураўскі.*

## ФРАЗЕАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

Фразеалагічны слоўнік — гэта тып лінгвістычнага слоўніка, у якім сабраны і апісаны фразеалагізмы. Фразеалагічныя слоўнікі бываюць аднамоўныя і перакладныя (двухмоўныя, радзей, шматмоўныя). Сярод аднамоўных адрозніваюць паводле іх прызначэння тлумачальныя, этымалагічныя, слоўнікі фразеалагічных сінонімаў, слоўнікі фразеалагічных антонімаў. Паводле крыніц матэрыялу бываюць фразеалагічныя слоўнікі літаратурнай мовы, народнай мовы і асобных гаворак.

Першы ў гісторыі беларускай фразеаграфіі тлумачальны фразеалагічны слоўнік — слоўнік Ф. М. Янкоўскага «Беларуская фразеалогія: Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне» (1968). Ён створаны на матэрыяле народнай мовы. Уключае больш за 1000 слоўнікавых артыкулаў (без адсылачных). Пераважная большасць апісаных фразеалагізмаў з'яўляецца агульнай для літаратурнай і народнай мовы. Слоўнікавы артыкул апрача загалоўка складаецца з тлумачальнай часткі і ілюстрацыйных прыкладаў. Зрэдку выкарыстоўваюцца стылістычныя (экспрэсіўна-ацэначныя) паметы. Калі фразеалагізм мае абмежаванні ў граматычнай спалучальнасці са словамі, паказваецца яго сувязь з кантэкстам (*даваць перуноў* каму). У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выкарыстоўваюцца аўтарскія запісы, зробленыя амаль ва ўсіх раёнах рэспублікі, а таксама дарэвалюцыйныя тэксты жывой народнай мовы (зборнікі Е. Раманава, З. Радчанкі, А. Сержпутоўскага, М. Федароўскага і інш.).

Другі фразеалагічны слоўнік, таксама складзены на матэрыяле беларускай народнай мовы,— «Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі» Е. С. Мяцельскай і Я. М. Камароўскага (1972). У слоўніку 2015 артыкулаў (разам з 721 адсылкай). Структура слоўнікавых артыкулаў такая ж, як і ў слоўніку Ф. М. Янкоўскага. Ілюстрацыі прыводзяцца *толькі* з народнай мовы, запісанай аўтарамі ў Стаўбцоўскім, Слуцкім і іншых раёнах. Сярод фразеалагізмаў, апісаных у слоўніку, найбольшую цікавасць для фразеалогіі як навукі маюць каля 200 дыялектных выразаў, якія раней не публікаваліся (*зжыўшы лета ды ў маліны, грабніцай пахнуць* і інш.) або чым-небудзь адрозніваюцца ад агульнамоўных (літаратурны *пусціцца ў сабачую скуру* і дыялектны *адзецца ў сабачую шкуру*).

На матэрыяле гаворкі Мсціслаўшчыны створаны 3 выпускі тлумачальнага фразеалагічнага слоўніка Г. Ф. Юрчанкі: «І коціцца і валіцца» (1972), «І сячэ і паліць» (1974), «Слова за слова» (1977). Гэта першы адносна поўны слоўнік фразеалагізмаў адной гаворкі (Чырванагорскі сельсавет Мсціслаўскага раёна). Тут толькі ў загалоўкі вынесена 4425 фразеалагізмаў, а разам з варыянтамі і дэрывацыйнымі ўтварэннямі іх каля 18 тысяч. Сярод іх нямала фразеалагізмаў, якія да гэтага не фіксаваліся і не былі ў навуковым і літаратурным ужытку (*і коціцца і валіцца, загвоздка ў калёсы, снаваць кросны* і інш.). Слоўнікавы артыкул складаецца з такіх жа частак, як і ў слоўніку Ф. М. Янкоўскага. Толькі для дзеяслоўных фразеалагізмаў аўтар распрацаваў іншы спосаб падачы і тлумачэння. Як асаблівасць ужывання гэтых фразеалагізмаў у народнай мове паказваецца разнастайнасць і багацце іх прыставачных утварэнняў. Усе дэрывацыйныя разнавіднасці дзеяслоўнага кампанента прыводзяцца ў адным артыкуле, у загаловак якога выносіцца фразеалагізм з дзеясловам незакончанага трывання. У некаторых выпадках прыводзіцца этымалагічная даведка, а таксама даюцца граматычныя, лексіка-семантычныя, стылістычныя (асудж., груб., гумар., зніж., кніжн.) і часавыя (неалаг., уст.) паметы.

Ад папярэдніх фразеалагічных слоўнікаў адрозніваецца праца І. Я. Лепешава «З народнай фразеалогіі: Дыферэнцыяльны слоўнік» (1991). Ён таксама складзены на матэрыяле народнай мовы, але ўключае толькі тыя выразы, якія не апісваліся ні ў нарматыўных слоўніках беларускай літаратурнай мовы, ні ў даведніках

беларускай народна-дыялектнай фразеалогіі. Кожны фразеалагізм (іх каля 700) атрымлівае семантычную, граматычную, а таксама (калі яна пастаянная) экспрэсіўна-ацэначную характарыстыку. Так, пра фразеалагізм *ад зубоў адскоквае (адлятае)* у к а г о даюцца такія звесткі: *«Цяп., пр., буд. склад.; адз. і мн. Адабр. Ужыв. пры дзейн. са знач. абстр. прадмета.* Выдатна, жвава, энергічна, з добрым веданнем справы расказваецца, вымаўляецца». Пашпартызаваныя ілюстрацыі паказваюць, у якім раёне ці раёнах пераважна Гродзенскай і Віцебскай абласцей занатаваны той ці іншы выраз, і даюць пэўнае ўяўленне аб функцыяніраванні фразеалагізма ў маўленні. Састаўным кампанентам некаторых слоўнікавых артыкулаў (каля 80) выступае кароткая этымалагічная даведка. У многіх выпадках у канцы слоўнікавага артыкула даецца памета «параўн.» і далей ідзе супастаўленне загаловачнага фразеалагізма з яго літаратурным адпаведнікам ці з выразам, зафіксаваным у іншых фразеалагічных працах, зборніках, у творах асобных пісьменнікаў, старажытных тэкстах, суседняй славянскай мове і г. д.

«Фразеалагічны слоўнік: Для сярэдняй школы» Н. В. Гаўрош, І. Я. Лепешава, Ф. М. Янкоўскага (1973) — першы тлумачальны фразеалагічны слоўнік беларускай літаратурнай мовы. У ім апісваецца 1339 фразеалагізмаў. Іх адбор абумоўлены задачамі навучання: у даведнік уключаны фразеалагізмы, якія сустракаюцца ў мастацкіх тэкстах, што вывучаюцца ў школе ці рэкамендуюцца для пазакласнага чытання. Кожны фразеалагізм тлумачыцца словазлучэннем або асобным словам, на літаратурных прыкладах паказваецца яго ўжыванне ў мове. Напрыклад, слоўнікавы артыкул *даць гарбуз* к а м у складаецца з тлумачальнай часткі («Адмовіць таму, хто сватаецца») і ілюстрацыі з рамана І. Мележа «Людзі на балоце». Да некаторых фразеалагізмаў даецца стылістычная памета (адценне асуджэння, дакору, непашаны і інш.).

«Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» І. Я. Лепешава (т. 1—2, 1993) — першая спроба стварыць тлумачальны фразеалагічны слоўнік, у якім выяўлена і па магчымасці поўна апісана фразеалогія ў яе сучасным стане. Па адборы матэрыялу і яго граматычнай і стылістычнай ацэнцы гэта нарматыўны слоўнік фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. У ім даецца лексікаграфічнае апісанне каля 6000 фразеалагізмаў, кожны з якіх атрымлівае семантычную, граматычную і стылістычную характарыстыку. У слоўніку адлюстраваны сінанімічныя і антанімічныя сувязі фразеалагізма.

Умовы граматычнага функцыяніравання фразеалагічнай адзінкі адлюстроўваюцца паказам яе парадыгматычных асаблівасцей, сінтаксічнай функцыі ў сказе, а таксама граматычнай і лексічнай спалучальнасці са словамі свабоднага ўжывання.

У «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» І. Я. Лепешава (1981; ч. 2, 1993) раскрываецца паходжанне каля 1400 фразеалагізмаў беларускай літаратурнай мовы. Слоўнікавы артыкул складаецца з наступных частак: загаловачнага фразеалагізма, яго агульнай характарыстыкі паводле паходжання, тлумачэння сэнсу фразеалагізма, этымалагічнай даведкі.

Двухмоўныя (перакладныя) фразеалагічныя слоўнікі: «Англа-беларускі слоўнік фразеалагізмаў параўнальнага тыпу» Л. Д. Корсак і Л. С. Марціновіч (1984) і «Руска-беларускі фразеалагічны слоўнік: Для сярэдняй школы» І. А. Кісялёва (1991). Другі з гэтых слоўнікаў адначасова і перакладны, і тлумачальны. У ім пасля пастаўленага ў загаловак рускага фразеалагізма даецца яго тлумачэнне, а затым прыводзіцца беларускі адпаведнік ці адпаведнікі. Пасля ідуць ілюстрацыйныя цытаты: адна з рускіх, другая з беларускіх літаратурных крыніц. *І. Я. Лепешаў.*




Фразеалагічныя слоўнікі.

## ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ НОРМЫ

Пад фразеалагічнай нормай разумеюць традыцыйнае, аднатыпнае і раўнацэннае ўжыванне фразеалагізмаў, прынятае ў даны перыяд моўным калектывам і ўсвядомленае ім як правільнае і ўзорнае. У паняцце фразеалагічнай нормы ўваходзяць правільнасць выбару фразеалагізма, аптымальнасць яго прымянення з захаваннем уласцівых яму асаблівасцей. Моўная практыка замацавала за кожным фразеалагізмам пэўнае значэнне ці значэнні, кампанентны склад, структурную арганізацыю, лексіка-граматычную спалучальнасць са словамі ў сказе. Некаторыя фразеалагізмы маюць рэліктавыя кампаненты (*напрамілы бог*), спецыфічны націск (*шапкамі закідаць*), своеасаблівую арфаграфію (*збоку прыпёку*) і пунктуацыю (*то бокам то скокам*), якія не падтрымліваюцца сістэмнымі адносінамі мовы.

Фразеалагічныя памылкі — гэта нематываваныя парушэнні нормы пры ўжыванні фразеалагізмаў. Часам фразеалагізм ужываюць не з тым значэннем, якое замацавалася за ім, і гэтым парушаюць дакладнасць маўлення. Недакладна ўжыты фразеалагізм выклікае няправільнае ўспрыманне тэксту, скажае сэнс выказвання, дэзінфармуе чытача (слухача). Фразеалагізм *ліць ваду на млын* (ч ы й, к а г о) абазначае 'ўскосным чынам дапамагаць сваімі дзеяннямі, паводзінамі ці выказваннем каму-н.

(праціўнаму боку)'; гэтым выразам характарызуюць паводзіны, справы, словы чалавека, які садзейнічае праціўніку, не жадаючы ці не ўсведамляючы гэтага. У паэме А. Бажко «Блакітныя вербы» гаворка ідзе пра Гароха — ваеннага злачынца, варожага найміта, які шчыра служыць інтарэсам тых, каму прадаўся; таму ацэнка дзеянняў гэтага персанажа фразеалагізмам *ліць ваду на млын* недакладная і недарэчная: *Не драмаў і Гарох, «сціплы» божы слуг. // Ен здалёк нам стагнаць з году ў год памагаў — // Ліў за Эльбай ваду на чужыя млыны.* Іншы раз фразеалагізм ставяць насуперак норме ў сінтаксічную і семантычную сувязь са словам, лексічнае значэнне якога ўваходзіць у сэнсавую структуру гэтага фразеалагізма; у выніку парушаецца лагічнасць маўлення, узнікае семантычная таўталогія, «масла масленае». Так, у фразеалагізме *баявое хрышчэнне* састаўным кампанентам абодвух значэнняў выступае сема *першы* — 'першы ўдзел у баі' і 'першае сур'ёзнае выпрабаванне ў чым.-н.'. Выкарыстанне фразеалагізма з азначэннем *першае* стварае сэнсавую празмернасць, парушае норму яго ўжывання: *Нагружаная трыма аўтаматамі, я пайшла... Гэта было маё першае баявое хрышчэнне* (І. Гурскі).

Вельмі часта сустракаюцца фразеалагічныя памылкі, звязаныя з парушэннем чысціні беларускага літаратурнага маўлення. Гэта бывае пры беспадстаўным ужыванні ў аўтарскай мове дыялектных фразеалагізмаў або іх варыянтаў, а таксама літаральна перакладзеных з рускай мовы, скалькаваных фразеалагізмаў. Напрыклад, замест нарматыўнага *як з крыжа зняты* ўжываюць дыялектны выраз *быдта з крыжа зняты: Есці трэба, а то быдта з крыжа зняты. Свіціцца ўвесь* (В. Іпатава); замест *малая сошка* (рус. *мелкая сошка)* ужываюць *дробная сошка: Потым нашаму брату — дробнай сошцы з мест — слова далі* (І. Аношкін); замест *кішкі марш іграюць* выкарыстоўваюць *кішка кішцы дулю паказвае* (рус. *кишка кишке кукиш кажет*): *Калі кішка кішцы дулю будзе паказваць, дык не найме будзе бунтаваць* (Р. Сабаленка).

Парушэннем дарэчнасці маўлення з'яўляецца ўключэнне ў навуковы ці іншы кніжны тэкст размоўнага фразеалагізма, бо такі экспрэсіўны, стылістычна зніжаны выраз не кантактуе з моўнымі адзінкамі негутарковых стыляў. Як чужародны моўны сродак вылзяляецца фразеалагізм *спаць у шапку* на фоне пераважна кніжнай лексікі: *Не спалі ў шапку забеспячэнцы будупраўлення і з вырашэннем другога пытання* (П. Кедраў, В. Чаромхін).

Часцей за ўсё фразеалагічныя памылкі звязаны з парушэннем правільнасці маўлення. Каб правільна рэалізаваць фразеалагізм, трэба ведаць яго спалучальныя ўласцівасці, а яны даволі часта бываюць вельмі складаныя. Фразеалагізм *душа ў душу* абазначае 'вельмі дружна, у поўнай згодзе' і ўступае ў сувязь толькі з дзеясловамі *жыць, пражыць, зажыць*. Выкарыстанне гэтай фразеалагічнай адзінкі з якім-небудзь іншым дзеясловам-суправаджальнікам змяняе яе семантыку, надае фразеалагізму іншы, ненарматыўны сэнс: *Мы з ім сышліся душа ў душу. Звыкліся* (І. Грамовіч); *Не, не можа яна паехаць, не дачакаўшыся Сяргея, не пагаварыўшы з ім душа ў душу, не паглядзеўшы яму ў вочы* (І. Стадольнік). Фразеалагізм *кашы не зварыш* з к і м, што значыць 'не дамовішся, не дойдзеш да згоды з кім-н.', абмежаваны строга акрэсленай сувяззю кіравання: кіруе толькі назоўнікам са значэннем асобы ў форме творнага склону. Параўнайце ўжыванне гэтага выразу з няправільнай спалучальнасцю: *Суконцаў неяк смеючыся зазначыў, што ў яго, Піліпа, падмочаная рэпутацыя, што з ёй кашы не зварыш, а ва ўніверсітэт тым больш не трапіш* (У. Кузьмянкоў). Нярэдка пры ўжыванні фразеалагізмаў беспадстаўна парушаецца іх традыцыйная форма. Так, недарэчна падмяняецца адзін з кампанентаў у фразеалагізмах *адным мірам мазаны, за трыдзевяць зямель: Начальства ўсё адным маслам мазанае* (М. Машара); *Я сяду ў апошні аўтобус, паеду за трыдзевяць зім* (М. Пракаповіч). Скажаецца структурная схема фразеалагізма. Напрыклад, фразеалагізм *душа баліць* нарматыўна мае структуру двухсастаўнага сказа, але ў некаторых аўтараў атрымлівае іншую канструктыўную афармленасць: *І не ў аднаго Івана баліць на душы* (В. Іпатава). Нямэтанакіравана пашыраецца кампанентны склад фразеалагізма; так, выраз *лыка не вяжа* абазначае 'такі п'яны, што ледзь-ледзь гаворыць', уключэнне ў яго кампанентны склад слова *языком* спараджае бяссэнсіцу: *І лыка языком не вяжа, а граззю кожнага абмажа* («Вожык»). Дарэчы, гэты фразеалагізм мае абмежаваную парадыгму, ужываецца яшчэ толькі ў форме прошлага часу (*лыка не вязаў*) і множнага ліку *(лыка не вяжуць, лыка не вязалі).* Выкарыстанне яго ў якой-небудзь іншай форме парушае норму, змяняе яго сэнс. Ёсць і іншыя, не менш тыповыя фразеалагічныя памылкі. Напрыклад, нярэдка элементы 2 фразеалагізмаў аб'ядноўваюцца ў адзін кантамінаваны, штучны выраз (*абвесці вакол пальца + вадзіць за нос → абвесці вакол носа): Нечакана Мікалаю Макаравічу становіцца крыўдна, быццам яго хто ўзяў ды абвёў вакол носа* (В. Гігевіч).

*Літ.*: Литературная норма в лексике и фразеологии. М., 1983; Лепешаў І. Я. Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы. Мн., 1984.

*І. Я. Лепешаў.*

## ФРАЗЕАЛОГІЯ

Фразеалогія [грэч. phrásis (phráseōs) выраз і lógos слова, вучэнне] — раздзел мовазнаўства, які вывучае фразеалагічны склад мовы ў яго сучасным стане і гістарычным развіцці; сукупнасць фразеалагізмаў пэўнай мовы.

Прадметам фразеалогіі як раздзела мовазнаўства з'яўляецца даследаванне прыроды і катэгарыяльных прыкмет фразеалагізмаў, іх семантычных, граматычных і стылістычных асаблівасцей. Катэгарыяльнымі прыкметамі фразеалагічнай адзінкі з'яўляюцца яе намінатыўнае і граматычнае значэнні і кампанентны склад. Яны і ўтвараюць змест і форму фразеалагізма. На гэтай аснове вылучаюцца асноўныя прыкметы фразеалагічнасці і вырашаецца пытанне аб сутнасці фразеалагізмаў як асобных адзінак мовы, выяўлення заканамернасцей іх функцыяніравання і ўтварэння ў мове як выразнікаў пэўных паняццяў або фактаў рэчаіснасці, якія ў большасці выпадкаў не маюць у мове аднаслоўнага эквіваленту. Напрыклад, фразеалагізм *драць горла* мае значэнне не проста 'крычаць або пець', а 'вельмі моцна крычаць (пець)', а *малоць лухту* — не толькі 'гаварыць што-небудзь недарэчнае, неверагоднае', але і 'займацца пустымі размовамі , балбатаць'.

Адна з задач фразеалогіі — вывучэнне формы рэалізацыі фразеалагічных адзінак у мове і характару іх абмежавання ў параўнанні са свабоднымі спалучэннямі слоў, сістэмныя сувязі паміж фразеалагізмамі. Калі свабоднае (пераменнае) словазлучэнне *(выйсці з хаты, выйсці з пакоя* і г. д.) утвараецца тым, хто гаворыць, а сэнс складаецца з сэнсаў слоў, што ў яго ўваходзяць, то фразеалагізм — гэта гатовае спалучэнне слоў, якое не ўтвараецца, а ўзнаўляецца ў мове. Калі таму, хто гаворыць, трэба ўжыць фразеалагізм, ён адшуквае яго ў сваёй моўнай памяці, а не будуе нанава. Так, у фразеалагізме *выйсці з галавы,* які азначае 'зусім забыцца', уласныя значэнні слоў *выйсці* і *галава* страцілі свае асноўныя значэнні (*выйсці* 'пайсці адкуль-небудзь, пакінуць межы чаго-небудзь, накіравацца куды-небудзь', *галава* 'верхняя частка цела чалавека, якая заключае ў сабе мозг'). Адрозненне фразеалагічнай адзінкі ад словазлучэння ў тым, што словазлучэнне складаецца са слоў, а фразеалагічная адзінка — з кампанентаў, у якіх няма ні лексічнага, ні граматычнага значэння слова, ні набору словаформ, уласцівых слову. Таму кампаненты фразеалагічных адзінак асобна не могуць уступаць у адносіны і сувязі са словамі, не могуць быць і членамі сказа. Не раскладаец-

ца фразеалагічная адзінка і на словы. Адсутнічаюць жывыя сувязі паміж кампанентамі ў складзе фразеалагічнай адзінкі па тыпу сувязей слоў у складзе словазлучэння. Яны толькі знешне нагадваюць апошнія. Кампанентны склад фразеалагічнай адзінкі вызначае такія асаблівасці яе формы, як вар'іраванне і факультатыўнасць. Напрыклад: *сёмая вада на кісялі* і *дзесятая вада на кісялі, ні бэ ні мэ ні кукарэку* і *ні бэ ні мэ.* Для словазлучэння яны немагчымы.

У сучаснай беларускай мове ў залежнасці ад агульнага значэння, аднолькавага набору граматычных катэгорый і аднатыпных форм выражэння вылучаюць 9 лексіка-граматычных разрадаў фразеалагічных адзінак: іменныя *(нячыстая сіла, зачараванае кола, апошняе слова, аблезлая жаба),* дзеяслоўныя *(абуць у лапці* к а г о, *тлуміць галаву* к а м у, *паказаць саву смаленую* к а м у, *свет завязаць* к а м у), ад'ектыўныя *(голы як бізун, зорак з неба не хапае, цэлы грош цана),* адвербіяльныя *(на злом галавы), хоць гвалт крычы, як нямазанае кола, як кашаль хваробе),* дзеяслоўна-прапазіцыянальныя *(свет расчыніўся* к а м у, *лаза плача* п а  к і м, *рукі не даходзяць* д а  ч а г о, *чым чорт не араў, тым сеяць не стаў),* займенныя *(ад малога да вялікага, усе як адзін, ніякі чорт, кожны сабака),* няпэўнакалькасныя *(хоць касой касі, кот наплакаў, раз-другі, як селядцоў у бочцы),* безасабова-прэдыкатыўныя *(мала там што, да лямпачкі, хоць бы што, раз два і гатова),* выклічнікавыя *(бадай цябе чорт, каб цябе качкі стапталі, каб цябе сарочка не чапала).*

Вызначальнай уласцівасцю фразеалагізмаў з'яўляецца семантычная цэласнасць кампанентаў, якая выяўляецца ў стабільнасці іх лексічнага складу, а ў шэрагу выпадкаў — іх марфалагічнага афармлення і сінтаксічнай арганізацыі, напрыклад, *абое рабое, як мае быць, было не было, куды там.* У залежнасці ад ступені семантычнай цэласнасці кампанентаў фразеалагізма В. У. Вінаградавым вылучаны наступныя тыпы фразеалагічных адзінак: ф р а з е а л а г і ч н ы я  з р а ш ч э н н і — семантычна непадзельныя ўстойлівыя словазлучэнні, значэнні якіх зусім незалежныя ад значэнняў лексічнага складу іх кампанентаў: *бібікі біць* 'гультаяваць, марнаваць час', *чортам падшыты* 'непаседлівы, вяртлявы'; ф р а з е а л а г і ч н ы я  а д з і н с т в ы — таксама семантычна непадзельныя ўстойлівыя слоўныя комплексы, цэласнасць якіх (у адрозненне ад фразеалагічных зрашчэнняў) матывавана словамі-кампанентамі, што ўваходзяць у іх склад: *налажыць галавой* 'прапасці, загінуць', *мелка плаваць* 'не мець дастатковых здольнасцей, сіл, ведаў у якой-небудзь справе', 'займаць нязначнае службовае або грамадскае становішча'; ф р а з е а л а г і ч н ы я  з л у ч э н н і — найбольш аналітычныя (свабодныя) у семантычным і сінтаксічным планах устойлівыя слоўныя комплексы, адзін з кампанентаў якіх ужываецца ў фразеалагічна звязаным значэнні або ў пераносным, а другі — у свабодным: *адвесці ўдар, чорная работа, зазірнуць у будучыню.* У фразеалагізме *траскучы мароз* другі кампанент *мароз* свабодна ўжываецца ў мове. Слова *мароз* можа спалучацца не толькі са словам *траскучы,* але і з шэрагам іншых слоў, розных паводле свайго значэння. Што датычыцца слова *траскучы,* то яно трывала звязана са словамі *мароз* і *фраза* ў складзе фразеалагічных злучэнняў *траскучы мароз, траскучая фраза,* г. зн. мае фразеалагічна звязанае значэнне. У адрозненне ад фразеалагічных адзінстваў фразеалагічныя злучэнні амаль што не маюць аманімічных ім свабодных словазлучэнняў, а словы з фразеалагічна звязанымі значэннямі ў іх складзе могуць замяняцца сінонімамі: *траскучы мароз* — моцны мароз, *траскучая фраза* — напышлівая, выхвальная фраза. Таму нельга гаварыць аб поўнай дэсемантызацыі кампанентаў фразеалагічных злучэнняў, якая назіраецца ў фразеалагічных адзінствах і асабліва фразеалагічных зрашчэннях. Некаторыя фразеолагі (М. М. Шанскі) вылучаюць з фразеалагічных адзінак яшчэ так званыя ф р а з е а л а г і ч н ы я  в ы р а з ы, якія складаюцца з слоў са свабодным значэннем (у іх складзе няма слоў з фразеалагічна звязаным значэннем, як у фразеалагічных злучэннях) і з'яўляюцца семантычна члянімымі. Але ў адрозненне ад свабодных спалучэнняў слоў яны не ствараюцца нанава тым, хто іх вымаўляе, а ўзнаўляюцца (бяруцца з памяці цалкам) такім спосабам, як і асобныя словы або фразеалагізмы, раўназначныя слову. Напрыклад, *на чыім возе едзеш, таму і песню спявай, асадзі назад, не ўсё тое золата, што блішчыць.*

Фразеалагічны склад мовы з'яўляецца непасрэдным кампанентам культуры, крытэрыем духоўнасці народа. Існаванне трапных выразаў сведчыць пра шматвяковую творчасць народа, яго светапогляд, культуру. У іх адлюстравана фізічная карціна навакольнага свету, сацыяльнае і побытавае жыццё чалавека, сам чалавек з яго эмоцыямі, унутраным светам. У фразеалогіі рэалізуюцца катэгорыі вобразнасці, метафарычны код мовы. Як сродкі вобразна-мастацкага адлюстравання знешняга і ўнутранага жыцця фразеалагічныя адзінкі ўвабралі ў сябе міфалагічныя, рэлігійныя, этычныя ўяўленні народа розных часоў. Так, са старажытнагрэчаскай мовы паходзяць фразеалагізмы: *аўгіевы стайні* 'запушчанае, забруджанае месца', *пракрустава ложа* 'мерка, пад якую падганяюць з'яву, якая пад яе не падыходзіць', *паміж Сцылай і Харыбдай* 'у безвыходным становішчы', *траянскі конь* 'скрытая небяспека'. З лацінскай мовы праз іншыя ў беларускую мову ўвайшлі фразеалагізмы: *залатая сярэдзіна* 'прамежкавае становішча', *пальма першынства* 'першае месца ў дасягненні чаго-небудзь', *анібалава клятва* 'выражэнне рашучасці весці барацьбу да поўнай перамогі', *белая варона* 'асоба, якая выдзяляецца сярод іншых'. У мове-крыніцы яны ўтварыліся з афарызмаў, выслоўяў, прыказак, створаных на глебе антычнай гісторыі і міфалогіі. З прычыны шырокай распаўсюджанасці ў шматлікіх мовах, дзе яны прыжыліся і выкарыстоўваюцца як свае, гэтыя фразеалагізмы набылі інтэрнацыянальны характар і з'яўляюцца адзінкамі міжнароднага фразеалагічнага фонду. А такія, напрыклад, фразеалагізмы, як *жыць з мазаля, гула смаленая, вадзіць дзяды, пасля гэбля тапаром* і іншыя адлюстроўваюць нацыянальную спецыфіку беларускай мовы, яе самабытнасць і разам з тым універсальнасць. Яны выражаюць сутнасць з'яў, якія адлюстроўваюць спосаб жыцця і характар народа, яго гісторыю, духоўнае жыццё і псіхалогію, нацыянальныя традыцыі і звычаі, этнічны побыт, тэмперамент.

Практычнае значэнне фразеалогія набывае ў лексікаграфічнай працы (фразеаграфіі) пры апісанні ў слоўніках, у методыцы навучання мове, у вывучэнні пытанняў функцыянальна-стылістычнай дыферэнцыяцыі фразеалагізмаў, а таксама суадносін нейтральных для мовы лексічных спосабаў намінацыі і экспрэсіўна афарбаваных найменняў фразеалагічнага характару. Зместам фразеалагічнай стылістыкі з'яўляецца вывучэнне стылістычных пластоў фразеалагізмаў, іх экспрэсіўна-эмацыянальных асаблівасцей, прыёмаў творчага выкарыстання фразеалагізмаў у маўленні, дзе яны выконваюць разнастайныя функцыі — намінатыўную, вобразнага выказвання, ацэначную, эмацыянальную, экспрэсіўную, моўнай характарыстыкі персанажа, стварэння гумару і інш. Фразеалагізмы шырока выкарыстоўваюцца пісьменнікамі як сродак дасягнення выразнасці мастацкага тэксту для больш дакладнага адлюстравання пэўнай з'явы, прадмета, персанажа. Правільна і да месца ўжыты фразеалагізм надае мове непаўторную своеасаблівасць, адметную выразнасць, трапнасць, вобразнасць. Існуе шмат стылістычных прыёмаў індывідуальна-аўтарскага ўжывання фразеалагізмаў. Стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў непасрэдна звязана з праблемай фразеалагічнай нормы, якая рэгулюе такія камунікатыўныя якасці, як правільнасць, лагічнасць, дакладнасць маўлення.

Набыўшы новае гучанне ў мастацкім творы або ўжытыя ў ім упершыню (напрыклад, у аднайменным творы Якуба Коласа *асадзі назад* або Крапівы — *свінтус грандыёзус*), фразеалагізмы з прычыны сваёй выключнай выразнасці і бляску запазычваюцца іншымі аўтарамі, уваходзяць у літаратурную і нацыянальную мову. Ілюстрацыяй выкарыстання фразеалагічных адзінак у мастацкай літаратуры з'яўляецца першы ў славянскай фразеалогіі «Фразеалагічны слоўнік мовы твораў Я. Коласа» (1993).

Фразеалогія як самастойная лінгвістычная дысцыпліна ўзнікла ў 1940-я гады. Передумовы тэорыі фразеалогіі закладзены ў працах рускіх вучоных А. А. Патабні, І. І. Сразнеўскага, А. А. Шахматава, Ф. Фартунатава. Уплыў на развіццё фразеалогіі зрабілі таксама ідэі французскага лінгвіста Ш. Балі. Плённае вывучэнне фразеалогіі разгарнулася пасля прац В. У. Вінаградава аб асноўных паняццях фразеалогіі як лінгвістычнай дысцыпліны (1947). Сістэматычнае вывучэнне беларускай фразеалогіі пачалося ў 1950-я гады, што было выклікана ўкладаннем беларускіх слоўнікаў рознага тыпу, вывучэннем лексічнага складу беларускай мовы, у які фразеалагізмы ўключаліся як састаўная частка. У гэты перыяд намечаны асноўныя контуры фразеалогіі, але яе межы як самастойнага раздзела лінгвістыкі яшчэ не былі вызначаны. У гэты час беларуская фразеалогія перажывала «працэс скрытага развіцця» (Б. А. Ларын), які зводзіўся галоўным чынам да «апрабавання» класіфікацыі В. У. Вінаградава. 1960—70-я гады вызначаліся збіраннем і вывучэннем беларускай дыялектнай фразеалогіі (слоўнікі Ф. М. Янкоўскага). Былі зроблены першыя крокі ў вылучэнні фразеалагічных арэалаў беларускай мовы (Ф. М. Янкоўскі, Э. Д. Блінава, Е. С. Мяцельская, З. А. Рудакоўская) і беларуска-іншаславянскіх ізафразем (А. С. Аксамітаў). Працягам вывучэння фразеалагічнага складу беларускай літаратурнай мовы, пачатага ў 50-я гады (Г. М. Базыленка), з'явіліся даследаванні фразеалогіі ў творах пісьменнікаў (І. Я. Лепешаў, Ф. М. Янкоўскі, С. К. Берднік, А. С. Аксамітаў, Т. М. Трыпуціна і інш.), а таксама вывучэнне фразеалогіі пісьменніка ў плане індывідуальна-моўнай дзейнасці (І. Я. Лепешаў), фразеалагічнай перыфразы (Г. М. Малажай), фразеаўтварэння ў яго дынаміцы (У. І. Коваль). У 1970—80-я гады праводзіліся даследаванні ў галіне беларускай гістарычнай фразеалогіі: зроблена спроба даць апісанне фразеалагічнага матэрыялу розных сінхронных арэалаў беларускай мовы (І. С. Козыраў, Т. І. Тамашэвіч, М. М. Аляхновіч, В. І. Несцяровіч), выявіць заканамернасці гістарычнага развіцця фразеалагічнага складу беларускай мовы (А. С. Аксамітаў).

*Літ.:* Аксамітаў А. С. Беларуская фразеалогія. Мн., 1978; Яго ж. Вывучэнне фразеалогіі ў Беларусі (1965—1980 гг.) // Бел. лінгвістыка. Мн., 1980. Вып. 18; Мокиенко В. М. Славянская фразеология. М., 1980; Янкоўскі Ф. М. Беларуская фразеалогія. Мн., 1981; Яго ж. Роднае слова. 2 выд. Мн., 1972; *Лепешаў І. Я. Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы.* Мн., 1984; Фразеологизм и его лексикографическая разработка. Мн., 1987; Даніловіч М. А. Граматычная характарыстыка фразеалагізмаў. Мн., 1991.

*А. С. Аксамітаў.*

## ФУНКЦЫІ МОВЫ

У лінгвістыцы пад функцыяй мовы разумеюць яе прызначэнне і ролю, якую выконвае мова ў жыцці чалавека і грамадства. Тэрмін «функцыя» выкарыстоўваецца і як сінонім слова «значэнне». Да разнастайных функцый мовы зводзіцца сама яе сутнасць. Галоўная функцыя мовы — камунікатыўная, або функцыя зносін паміж людзьмі. Яна раскрывае сацыяльны, грамадскі характар мовы, бо па-за грамадствам мова спыняе сваё існаванне, нягледзячы на тое, што яе знешняя форма можа захоўвацца ў выглядзе пісьма або гукавых запісаў. Праз гэту яе функцыю выяўляецца псіхічная прырода мовы, таму што мова рэалізуецца праз маўленне, калі яна ажывае ў свядомасці людзей, перадаецца органамі маўлення і ўспрымаецца органамі пачуццяў. Зафіксаваныя матэрыяльныя формы мовы набываюць сваю значнасць, становяцца ўнутраным здабыткам людзей толькі пры ўспрыманні свядомасцю чалавека, яго псіхікай. Само станаўленне чалавека, вылучэнне са свету жывых істот як вышэйшага іх віду звязана з мовай як універсальным сродкам зносін. Сацыяльная прырода чалавека найбольш яскрава прадстаўлена ў мове, праз якую ён далучаецца да пэўнага калектыву людзей, народнасці, нацыі.

Сувязь чалавека з навакольным светам ажыццяўляецца праз намінатыўную функцыю мовы. Знешнія прадметы становяцца ўнутраным здабыткам чалавека, ствараюць свет яго вобразаў, уяўленняў, паняццяў, калі гэтыя прадметы атрымліваюць назвы сродкамі мовы, у першую чаргу словамі. Звычайна тым прадметам і з'явам рэчаіснасці, якія адыгрываюць важную ролю ў жыцці людзей пэўнага калектыву, даецца значна больш разнастайных назваў, чым з'явам і прадметам, якія знаходзяцца як бы на перыферыі інтарэсаў чалавека, практычна не сустракаюцца ці рэдка трапляюцца ў яго жыцці. Напрыклад, у арабскай мове даследчыкі адзначаюць каля 5000 назваў вярблюда. У беларускай жа мове зафіксавана ўсяго адно адпаведнае слова. Некаторыя адцягненыя паняцці добра распрацаваны ў беларускай мове і таму маюць мноства намінацый. Так, працэс гаварэння паводле «Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў» М. К. Клышкі (1976) мае 73 розныя назвы (гл. сінанімічны рад, які ўзначальвае слова *гаварыць*), паняцце бяды абазначаецца 57 сінонімамі, паняцце вялікага памеру — 50 словамі і г. д. Багацце слоўніка ў цэлым, а таксама колькасць намінацый у пэўнай галіне жыцця і ведаў сведчаць не толькі пра стан і развіццё мовы народа, але і пра ступень яго інтэлектуальнага і духоўнага стану, глыбіню распрацоўкі тых паняццяў, якія звязаны з жыццёвымі ўмовамі людзей і маюць для іх вялікае значэнне.

Мова мае знешнюю форму, якая ўспрымаецца нашымі пачуццямі ў выглядзе гукаў (або графічных знакаў), і ўнутраны змест, ідэальную частку. Змест мовы непасрэдна ўваходзіць у свядомасць чалавека, у кола яго думак, пачуццяў і ў цэлым звязаны з псіхікай чалавека або яго ўнутраным светам. У свядомасці чалавека, у яго ўнутраным свеце адлюстроўваюцца знешняя рэчаіснасць, навакольны свет, і змест мовы як арганічная частка свядомасці чалавека (што робіць яе моўнай свядомасцю) таксама адлюстроўвае гэту рэчаіснасць. У аснове значэнняў практычна ўсіх знамянальных слоў так ці інакш ляжаць адпаведныя паняцці, у якіх увасабляюцца ўяўленні чалавека пра адлюстраваныя ў яго свядомасці прадметы (элементы прадметаў, іх прыкмет, рыс або з'яў і іх прыкмет). Гэта значыць, што мы можам гаварыць пра наяўнасць у мове функцыі адлюстравання. Але спецыфіка мыслення чалавека і структурныя асаблівасці кожнай мовы прыводзяць не да люстранога адбітку канкрэтнага прадмета або з'явы ў мове, а да такога яго прадстаўлення, якое адпавядае структуры гэтай мовы і стану свядомасці і мыслення чалавека. Інакш кажучы, значэнні моўных адзінак з цягам часу мяняюцца, хоць многія знешнія прадметы і з'явы застаюцца без істотных змен. Так, слова *атам* у перакладзе з грэчаскай мовы, адкуль яно запазычана, азначае непадзельны. І хоць пасля адкрыцця складанай структуры атама нашы ўяўленні аб ім змяніліся, у назве ж гэтай часцінкі матэрыі засталася прыкмета, якая выкарыстана для яе намінацыі.

Адна з істотных функцый мовы — пазнавальная. Чалавечае пазнанне грунтуецца на ведах, якія фіксуюцца, назапашваюцца, класіфікуюцца, абагульняюцца з дапамогай мовы. У той жа час мова выступае і як матэрыяльнае замацаванне ведаў, і як непасрэдны інструмент пазнання, таму што стварэнне і ўзбагачэнне асноўных катэгорый мыслення (па-

няццяў) адбываецца на аснове мовы. Звычайна паняццям адпавядаюць словы, якія маюць абагульняльны характар, бо яны абазначаюць не адзін прадмет, а цэлыя сукупнасці аднародных прадметаў, з'яў, прыкмет. Пазнавальныя працэсы таксама грунтуюцца на абагульненні, на звядзенні мноства да адзінства, што выяўляецца ў фарміраванні разнастайных законаў, правіл, вызначэнняў з дапамогаю мовы. Засвойванне назапашаных чалавецтвам ведаў, практычна ўсе працэсы навучання людзей (у школах, ВНУ і г. д.) звязаны з шырокім выкарыстаннем мовы, якая служыць галоўным сродкам атрымання, павелічэння, узбагачэння і ўдакладнення ведаў.

Мова з'яўляецца і галоўным спосабам выражэння думак і пачуццяў кожнага чалавека і тым самым выконвае экспрэсіўную функцыю. Праз мову перадаюцца не толькі пэўныя звесткі, веды, але і выяўляюцца адносіны да іх таго, хто гаворыць (яго здольнасці, вопыт, эрудыцыя, уменне валодаць мовай, псіхічны стан у момант маўлення), разгортваецца ўвесь унутраны свет чалавека. У адным са старажытных паданняў гаворыцца, што да Сакрата, які лічыўся глыбокім знаўцам чалавечых душ, прывялі незнаёмца, каб грэчаскі мудрэц ахарактарызаваў яго. Сакрат доўга глядзеў на гэтага чалавека, а потым усклікнуў: «Ды загавары ж ты ўрэшце, каб я мог пазнаць цябе!» Праз экспрэсіўную функцыю выяўляюцца галоўныя рысы чалавека, яго светапогляд, яго ўнутраны партрэт.

Пры зносінах часта важным аказваецца не толькі тое, што сказаць, але і як сказаць. Уласцівасці і якасці маўлення ацэньваюцца і паводле яго зместу, эмацыянальнай насычанасці, эстэтычных характарыстык, паводле ўражання, якое яно выклікала ў слухачоў (чытачоў). Мілагучнае выказванне пры аднолькавай інфарматыўнасці са звычайным паведамленнем успрымаецца з большым задавальненнем, лепшай увагай і нават з асалодай. Эстэтычная функцыя мовы ўвасабляецца ў мастацкай прозе, паэзіі, сцэнічным маўленні, красамоўстве. Размоўныя выказванні тыпу сказа-пажадання *Няхай бягуць гады і будзе больш у іх добрых дзён* у такіх майстроў беларускага слова, як Максім Багдановіч, ператвараюцца ў моўныя шэдэўры: *Будзь жа, век малады // Поўны светлымі днямі! // Пралятайце, гады, // Залатымі агнямі!*

Вылучэнне найважнейшых функцый у лінгвістыцы не абмяжоўваецца, як гэта зроблена вышэй, простым іх пералікам і характарыстыкай. Робяцца спробы даць больш рацыянальнае і арганізаванае іх выдзяленне, грунтуючыся, напрыклад, на ўліку галоўных кампанентаў маўленчага акта і ўзаемаадносін паміж імі. Так, адзін з найбольш вядомых мовазнаўцаў 20 ст. Р. Якабсон, аналізуючы структуру, якую ствараюць элементы камунікатыўнага акта (адрасант, або той, хто перадае звесткі; адрасат, або той, хто іх успрымае; само моўнае паведамленне; кантэкст, або тое, пра што перадаецца паведамленне; код, або сістэма агульных для адрасата і адрасанта моўных адзінак; кантакт, або канал сувязі паміж адрасантам і адрасатам), прапанаваў наступную схему іх размяшчэння:




Галоўным фактарам ў маўленчым акце з'яўляецца тое, што гаворыцца ў паведамленні, г. зн. кантэкст, з якім суадносіцца функцыя перадачы звестак, або камунікатыўная функцыя мовы. З адрасантам звязана экспрэсіўная функцыя, у якой увасабляецца выражэнне яго адносін да таго, пра што ён гаворыць. Адно і тое ж паведамленне можа выказвацца адрасантам і з ухваленнем, і з асуджэннем, і нейтральным тонам, і з недаверам, і іранічна, і крытычна, і г. д., што значна ўплывае на характар інфармацыі. У арыентацыі на адрасата ўвасоблена так званая апелятыўная функцыя, з дапамогай якой праз моўныя сродкі адрасант уздзейнічае на адрасата. Граматычнае выражэнне гэта функцыя знаходзіць у загадным ладзе. Загадныя сказы адрозніваюцца ад апавядальных найперш тым, што яны не могуць быць праўдзівымі ці няпраўдзівымі (параўнаем: *схадзі, падай, прынясі, чытай* і г. д.). Накіраванасцю на кантакт ажыццяўляецца фактычная функцыя, адзінай мэтай якой служыць падтрымка камунікацыі (дыялога), што праяўляецца праз выкарыстанне слоў і выразаў тыпу *так-так, далей, ага, добра* і г. д. З кодам звязана метамоўная функцыя, або функцыя тлумачэння таго, што незразумела ў паведамленні. Пры ўжыванні незнаёмага для адрасата слова ці выразу адрасант можа раскрываць іх змест праз разгорнутае тлумачэнне, або вызначэнне, тыпу *ВТНУ* — гэта вышэйшая тэхнічная навучальная ўстанова, *бібікі біць* — гультайнічаць, нічога не рабіць і г. д. Накіраванасць на паведамленне канцэнтруе ўвагу на ім самім, на паведамленні дзеля паведамлення, у чым выяўляецца паэтычная функцыя мовы, або функцыя, якую мы ўжо разглядалі пад назвай эстэтычная. Такім чынам, прыведзеная вышэй схема элементаў маўленчага акта ў адносінах да звязаных з імі функцый мовы можа быць прадстаўлена аналагічнай схемай:




Розныя функцыі мовы рэалізуюцца яе адзінкамі, іх узаемадзеяннем. Тым не менш кожная з моўных адзінак імкнецца ўвасобіць у сабе найперш якую-небудзь адну функцыю. Так, у цэнтральнай адзінцы мовы — слове — на пярэднім плане намінатыўная функцыя, у сказе — камунікатыўная, у фразеалагізме — экспрэсіўная, у фанемы — сэнсаадрознівальная. Функцыянальную прыроду мае і расслаенне мовы на розныя стылі (гутарковы, афіцыйны, канцылярскі, навуковы, публіцыстычны і інш.), таму што ў кожнага з іх сваё прызначэнне, кожны разлічаны на выкананне пэўных функцый у акрэсленых сферах жыцця і дзейнасці чалавека. У цэлым усе функцыі, якія выконвае мова, накіраваны на тое, каб зрабіць яе найбольш эфектыўным і аптымальным сродкам зносін паміж людзьмі.

*Літ.*: Аврорин В. А. Проблемы изучения функциональной стороны языка: (К вопр. о предмете социолингв.). Л., 1975; Гавранек Б. О функциональном расслоении литературного языка // Пражский лингвистический кружок: Сб. статей. М., 1967; Общее языкознание: Формы существования, функции, история языка. М., 1970; Спасов Д. Философский анализ функции языка // Философия и методология науки. М., 1972; Міхневіч А. Я. Функцыі мовы і маўлення і праблемы беларуска-рускага двухмоўя // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982; Якобсон Р. О. Лингвистика и поэтика // Общее языкознание: Хрестоматия. 2 изд. Мн., 1987.

*Б. А. Плотнікаў.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скорапіс 15 ст.

Скорапіс 16 ст.

Скорапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Пароль неўміручасці — родная мова.*
*Рассуньцеся, часу перагародкі:*
*Вядуць, як суседзі праз вокны, размову*
*Учора і заўтра, патомкі і продкі...*
*Нас дзеці і ўнукі паўтораць нанова—*
*Народы не спісваюцца на пенсію,*
*Ты будзеш звінець, мая родная мова,*
*Як слова, якое не выкінуць з песні!*

Пятрусь Макаль



**Х** — *дваццаць чацвёртая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай х («хер»), якая адпавядала грэка-візантыйскай устаўнай χ («хі»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычныя гукі* х, х' (хата, хитрый'). *Мела таксама лічбавае значэнне «шэсцьсот». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст. акрамя рукапіснай набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваццa як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумныя глухія шчылінныя заднеязычныя зычныя гукі* х, х' (хвост, хістаць — *«х'істац'»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ХДС, ХТЗ). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дваццаць другі» (група «Х»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 6х).*

*А. М. Булыка.*

## ХРОНІКА БЫХАЎЦА

Хроніка Быхаўца, або летапіс Быхаўца,— найбольш поўны са спісаў старажытных беларуска-літоўскіх летапісаў. Помнік мае даволі складаную гісторыю як паводле паходжання, так і па вывучэнні. Упершыню яго адшукаў настаўнік віленскай гімназіі гісторык І. Клімашэўскі і ў 1830 г. апублікаваў невялікі ўрывак у польскім часопісе. Уладальнік рукапісу гаспадар маёнтка Магілёўцы Слонімскага павета Гродзенскай губерні Аляксандр Быхавец у 1834 г. перадаў рукапіс летапісу вядомаму польскаму гісторыку Т. Нарбуту ў двор Шаўры Лідскага павета. У адной са сваіх прац Нарбут даў палеаграфічнае апісанне помніка, а ў 1846 г. надрукаваў хроніку поўнасцю асобным выданнем. Пра рукапісны арыгінал хронікі паведамлялася яшчэ ў каталогу бібліятэкі Нарбута, складзеным у 1851 г. Але пасля гэтага арыгінал знік бясследна. Таму публікацыя Нарбута 1846 г. засталася адзінай крыніцай звестак пра гэты помнік.

Ніводны іншы старабеларускі летапіс не выклікаў у даследчыкаў столькі зацікаўленасці і супярэчлівых меркаванняў, як хроніка Быхаўца. У мінулым некаторыя даследчыкі лічылі яе нават фальшывай падробкай, створанай самім Нарбутам, але пазней была даказана беспадстаўнасць такога сцвярджэння. Вяліся спрэчкі таксама і наконт назвы помніка; было прапанавана назваць яго Заслаўскім летапісам на той падставе, што польскі гісторык М. Стрыйкоўскі ў сваёй «Хроніцы» 1582 г. выкарыстаў старабеларускі летапіс, набыты ім у князёў Заслаўскіх і паводле зместу вельмі блізкі да хронікі Быхаўца. Доўгі час у навуковай літаратуры не было адзінага погляду адносна нацыянальнай і рэлігійнай прыналежнасці складальніка хронікі, бо прамых звестак наконт гэтага ў помніку няма. Толькі з улікам розных ускосных дадзеных даследчыкі прыйшлі да пераканання, што храніст паходзіў з праваслаўнага беларускага асяроддзя. У рукапісе, якім карыстаўся Нарбут, было 159 старонак тэксту, але ён не меў ні пачатку, ні канца, а таксама часткі з сярэдзіны помніка. Спачатку лічылі, што захавалася толькі палавіна арыгінальнага тэксту. Аднак пазней шляхам спецыяльнага тэксталагічнага аналізу ўдалося ўстанавіць, што страчанай аказалася прыблізна толькі дзесятая частка помніка.

З усіх старабеларускіх летапісаў хроніка Быхаўца вылучаецца тым, што ў ёй гісторыя Вялікага княства Літоўскага выкладзена найбольш поўна. Яна завяршае амаль паўтарастагадовы перыяд развіцця агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання. У пачатку летапісу падаецца легенда пра ўцёкі з Рыма ў Літву 500 знатных сем'яў. Заканчваецца рукапіс апісаннем разгрому татарскага войска пад Клецкам у 1506 г. У асноўнай частцы летапісу выкарыстаны звесткі з ранейшых летапісных зводаў. У цэлым жа, як адзначаюць даследчыкі, добрую палавіну хронікі ўтварае арыгінальны тэкст, вынік самастойнай працы храніста, дзе выразна выяўляюцца яго сімпатыі і антыпатыі, шырока раскрываюцца яго здольнасці як гісторыка і пісьменніка. Акрамя пісьмовых крыніц, аўтар хронікі, несумненна, карыстаўся і вуснай інфармацыяй людзей, якія шмат чулі пра ранейшыя падзеі і захавалі ў сваёй памяці апавяданні пра даўнія часы. Тэма патрыятызму з'яўляецца асноўнай, дамінуючай у гэтым летапісе. Аўтарам выразна кіруе жаданне ўславіць і ўзвялічыць гісторыю сваёй радзімы, паказаць яе ў найбольш станоўчым святле, выклікаць у чытачоў пачуццё гонару да гісторыі свайго народа, сваёй дзяржавы.

Цяпер ужо дакладна ўстаноўлена, што хроніка Быхаўца складзена каля сярэдзіны 16 ст. выхадцам з ваколіц Слуцка або Навагрудка. Яна была напісана на старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове традыцыйным кірыліцкім пісьмом. У пачатку 18 ст. з яе зрабілі копію польскім пісьмом (польская мадыфікацыя лацінскага алфавіта) і гэта дало падставу некаторым даследчыкам лічыць, што ў 18 ст. быў зроблены пераклад хронікі на польскую мову. У Вялікім княстве Літоўскім у 18 ст. кірыліцкае пісьмо было амаль што забытым, таму пры перапісцы колішніх кірыліцкіх тэкстаў сталі карыстацца польскім пісьмом, але пры гэтым захоўвалі асаблівасці беларускай мовы ў фанетыцы, граматыцы і лексіцы. Хроніка Быхаўца якраз і з'яўляецца найлепшым узорам гэтага роду пісьменства. Польская арфаграфія старажытнага перыяду ў многім адрознівалася ад сучаснай, і

гэта знайшло адлюстраванне ў помніку. У польскім правапісе старажытнага перыяду для абазначэння гука [і] бессістэмна ўжываліся літары *i* і *y*. У летапісе Быхаўца літара *y* вельмі часта напісана там, дзе ў кірыліцкім пісьме звычайна ўжывалася літара *и*. Гэта асабліва назіраецца ў інфінітывах: *bity* (бити), *daty* (дати), *zwaty* (звати), *yty* (ити), *mowity* (мовити), *panowaty* (пановати), *pomstyty* (помстити), *pustyty* (пустити), *staty* (стати) і інш. Толькі літара *y* паслядоўна без якіх-небудзь выключэнняў ужыта для абазначэння злучніка *и*. У польскім пісьме літара *i* часта пісалася там, дзе цяпер ужываюць *j*, і гэта таксама шырока адлюстроўваецца ў помніку: *ieie* (ее), *ieho* (его), *iemu* (ему), *tuiu* (тую,) *swoiu* (свою), *ieszcze* (ешче), *ihraiut* (іграють) і інш. З другога боку, літара *y* нярэдка пішацца там, дзе цяпер ужываюць таксама *j*: *nayde* (найде), *paydut* (пойдуть), *boy* (бой), *hay* (гай), *toy* (той). Мяккасць канцавых зычных у кірыліцкіх тэкстах старажытнага перыяду абазначалася знакам *ь*, якога не было ў польскай графіцы. Пры пераводзе на польскае пісьмо мяккі знак апускаўся і канцавы зычны станавіўся цвёрдым, што не адпавядала беларускаму вымаўленню. Гэта назіраецца ў словах розных часцін мовы: *west* (весть), *iest* (есть), *hat* (гать), *złost* (злость), *piat* (пять), *test* (тесть). Пры такой сістэме транслітарацыі асабліва дэфармаванымі аказаліся многія дзеясловы, напрыклад формы 3-й асобы адзіночнага ліку накшталт *budet* (будеть), *żywet* (живеть), *idet* (идеть), *teczet* (течеть) і формы 3-й асобы множнага ліку тыпу *budut* (будуть), *żywut* (живуть), *idut* (идуть), *mohut* (могуть). Прыкметнай асаблівасцю помніка з'яўляецца частае ўжыванне літары *i* пераважна на месцы этымалагічнага гука «яць»: *wira* (вера), *misto* (место), *mity* (мети), *obid* (обед), *otwit* (ответ), *swit* (свет), *tiło* (тело) і г. д. Відаць, тут адлюстравана паўднёва-беларускае вымаўленне. У некаторых выпадках польскі перапісчык недакладна перадаў структуру асобных слоў, што захавалася і ў пазнейшых выданнях: *a czey* (замест *aczey* «хоць»), *zane że* (замест *zaneże* «бо»), *za sia* (замест *zasia* «зноў»), *iż by* (замест *iżby* «каб») і інш. У выніку такіх недакладнасцей матэрыял летапісу Быхаўца вельмі абмежавана выкарыстоўваецца ў даследаваннях па фанетыцы і марфалогіі беларускай мовы. Помнік ствараўся ў часы, калі ў беларускім пісьменстве асноўным быў гісторыка-этымалагічны прынцып арфаграфіі. У сувязі з гэтым такія фанетычныя рысы беларускай мовы, як аканне і яканне, дзеканне і цеканне, змяненне *л* у *ў* у пэўных пазіцыях у помніку, як і ў іншых тагачасных пісьмовых тэкстах, не знайшлі адлюстравання.

Што датычыць граматычнага ладу, то летапіс адлюстроўвае ўсе асноўныя асаблівасці, характэрныя для беларускай літаратурна-пісьмовай мовы таго часу. Вельмі ўстойлівай выглядае сістэма назоўнікаў, што тлумачыцца, па-першае, агульнай устойлівасцю сістэмы канчаткаў гэтай часціны мовы і, па-другое, тым, што асноўныя асаблівасці беларускай мовы ў галіне назоўніка склаліся значна раней і мала адрозніваюцца ад сучасных норм. Можна адзначыць, напрыклад, рэгулярнае выкарыстанне форм клічнага склону назоўнікаў, што было яшчэ звычайным для часу стварэння помніка: *brate, hospodaru, kniaże, korolu, kume, pane*. Паслядоўна захоўваецца старажытны канчатак *-ы(-у)* назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў творным склоне множнага ліку: *z bojary, z horody, z listy, z pany, meży pany, mnohimi dary, tyme słowy*. Разам з тым у помніку адлюстраваны і новы канчатак *-ове(-owe)* назоўнікаў мужчынскага роду множнага ліку назоўнага склону: *lachowe, panowe, tatarowe, wołochowe*.

Суіснаванне ў тэксце моўных рыс розных гістарычных перыядаў — вынік выкарыстання складальнікам розных па часе ўзнікнення пісьмовых крыніц. Гэта асабліва выразна відаць на сістэме дзеяслоўных форм. Асноўнай формай выражэння мінулых дзеянняў у летапісе з'яўляецца перфект, які служыць галоўным сродкам выражэння прошлага дзеяння і ў сучаснай беларускай мове. Апавядальным стылем летапісу абумоўлена пераважнае ўжыванне ў аўтарскай мове перфекта ў формах 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку. Адрозненне ад сучаснай мовы толькі ў тым, што формы мужчынскага роду адзіночнага ліку захоўваюць канцавое *-ł*, якое адпавядае сучаснаму *-ў*: *był, dał, kazał, kochał, nazwał, panował, pryszoł, chował*. Формы множнага ліку марфалагічна нічым не адрозніваюцца ад сучасных: *dali, obiecali, poczali, pryszli, prywitali, chwalili*. Аднак у тых месцах летапісу, дзе апавядаецца пра далёкае мінулае і якія грунтуюцца на ранніх пісьмовых крыніцах, часта ўжываецца і старажытны аорыст: *byst, ide, izhna, nacza, nayde, poyde, umre, pomoże* — формы 3-й асобы адзіночнага ліку, і *bysza, iechasza, idosza, pustisza, ubisza* — формы 3-й асобы множнага ліку. Зрэдку ў летапісе трапляюцца і формы даўняга імперфекта — асобнай формы прошлага часу, што служыла для абазначэння працяглага нерасчлянёнага дзеяння ў мінулым: *biasze, lublasze, biachu, bywachu*. Як і ў іншых старажытных пісьмовых помніках, у летапісе Быхаўца для выражэння мінулага дзеяння выкарыстоўваюцца своеасаблівыя формы, знешне падобныя да форм будучага часу: *kniaż welikij Kestutey pryiede ko Horodny k synu swojemu, y żonu swoju poszlet ko Berestiu*. Такіх форм вельмі многа ў помніку: *wteczet, poydet, poszlet, siadet, pryiedet*. Яны з'яўляюцца вынікам пераўтварэння ранейшых форм аорыста, якія ў структурных адносінах былі блізкія да форм будучага часу. Вылучаецца яшчэ адзін тып форм прошлага часу, якія ў мовазнаўчай літаратуры прынята называць новым даўномінулым часам. Такія формы ўтвараліся ад так званых мнагакратных дзеясловаў, якія сваім лексічным зместам указваюць на паўтаральнасць дзеяння ў мінулым і паводле значэння адпавядаюць старажытнаму імперфекту. Утвараліся яны ў большасці ад беспрыставачных дзеясловаў пры дапамозе суфіксаў *-ива-*, *-ыва-*, і *-ва-* з пэўнымі фанетычнымі зменамі зычнага ў аснове і часам з чаргаваннем каранёвага галоснага. Такія формы, знешне падобныя на пазнейшы перфект без звязкі, атрымалі асабліва шырокае распаўсюджанне ў дзелавым пісьменстве. Шырока адзначаюцца яны і ў летапісах, у тым ліку і ў хроніцы Быхаўца, што сведчыць пра ўзаемадзеянне розных стыляў старабеларускай пісьмовай мовы: *prychożywał, sożyhał kładywali, yhrywali, wozywali*. Суіснаванне ў помніку архаічных і новых, уласных і запазычаных моўных рыс мае вынікам выражэнне рознымі сродкамі аднаго і таго ж граматычнага значэння: *recze, rek* і *rekł, umre, umer* і *umerł*. Варта таксама адзначыць, што летапіс адлюстроўвае поўнае пераўтварэнне ранейшых дзеепрыметнікаў у дзеепрыслоўі, якія ў беларускай мове замацаваліся ў былых формах жаночага роду адзіночнага ліку: *baczeczy, buduczy, maiuczy, panuiuczy, dawszy, poszodszy, zmowiwszy*. Старыя формы дзеепрыметнікаў на *-a* ў помніку параўнальна рэдкія: *budia, ydia, pomszczaia, chotia*. Параўнальна новай з'явай можна лічыць ужыванне форм загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку з канчаткам *-мо(-mo)*: *poiedmo, ratuymo, wczynimo, zmowmo*.

Лексіка помніка — тыповая для беларускай літаратурна-пісьмовай мовы таго часу. Пра гэта сведчыць перш за ўсё пераважнае ўжыванне мясцовых беларускіх поўнагалосных форм тыпу *bereh, bołoto, hołod, hołowa, horod, derewo, zołoto, połon, storona*. Суадносныя няпоўнагалосныя формы паўднёваславянскага паходжання накшталт *wrah, hrad, słato* зрэдку ўжываюцца ў архаізаваных частках помніка, як і некаторыя іншыя царкоўнаславянізмы тыпу *dondeże, zane, kamo, paki, semo*, з мэтай стылізацыі. Але яны выглядаюць малахарактэрнымі выключэннямі на фоне пераважаючай усходнеславянскай лексічнай стыхіі. У помніку выразна выяўляецца і спецыфічная беларуская лексіка рознага паходжання: лексічныя ўтварэнні з агульнаславянскага кораня слова, даўнія запазычанні, цалкам асіміляваныя беларускай мовай у фанетыч-

ных і марфалагічных адносінах, і г. д.: назоўнікі *hańba, hetman, hospodar, hospodarstwo, doczka, kryż, łaźnia, matka, młyn, myto, pan, panstwo, parobok, pokoy, rada, recz, seym, skarb, szkoda, woysko,* дзеясловы *budowati, pytati, chowati.* Помнік адлюстроўвае і польскі лексічны ўплыў, што было звычайным для беларускага пісьменства сярэдзіны 16 ст. Да гэтага разраду можна аднесці паланізмы, якія былі распаўсюджаны ў адукаваных колах беларускага грамадства, але не замацаваліся ў народнай беларускай мове і затым выйшлі з ужытку: назоўнікі *walka* 'барацьба', *waleczník* 'змагар', *hołdownik* 'васал', *zwyteżstwo* 'перамога', *morderstwo* 'забойства', *okrutenstwo* 'жорсткасць', *rożay* 'род', *tiżba* 'натоўп', прыметнікі *waleczny* 'смелы, мужны', *okrutny* 'жорсткі', *razmaity* 'разнастайны' і інш. Аднак у цэлым колькасць слоў польскага паходжання ў помніку адносна невялікая ў параўнанні, напрыклад, з тагачасным канцылярска-юрыдычным пісьменствам, дзе польская лексічная стыхія з'яўляецца ўжо больш адчувальнай.

Летапіс Быхаўца выдаваўся некалькі разоў. Апошняе выданне паводле публікацыі Т. Нарбута змешчана ў серыі «Поўны збор рускіх летапісаў» (т. 32, М., 1975). У 1966 г. летапіс выдадзены ў перакладзе на рускую мову, а ў 1971 г. з'явіўся пераклад гэтага твора на літоўскую мову. Аднак мова помніка як асобная праблема спецыяльна ніколі не вывучалася.

*Літ.:* Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Узнікненне і літ. гісторыя першых зводаў. Мн., 1969; Улашчик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

*А. І. Жураўскі.*

| | |
|---|---|
| Ц | Устаў 11 ст. |
| Ц | Паўустаў 15 ст. |
| Ц | Паўустаў 16 ст. |
| Ц | Паўустаў 17 ст. |
| Ц | Скорапіс 15 ст. |
| Ц | Скорапіс 16 ст. |
| Ц | Скорапіс 17 ст. |
| Цц | Ф.Скарыны 16 ст. |
| Цц | Статута ВКЛ 1588 г. |
| Цц | Друкаваная 17 ст. |
| Цц | Грамадзянская 18 ст. |

*Я чула пяшчотнае,*
*шчырасці поўнае,*
*маё, беларускае, роднае, кроўнае,*
*такое раптоўнае, такое чароўнае.*
*Такое ласкавае, цёплае, чыстае,*
*як сонца, агністае, як Нёман, празрыстае,*
*як казка, быліна, як песня, жаданае,*
*дагэтуль зусім у жыцці не пазнанае,*
*вясновае слова ад шчырага сэрца.*

Данута Бічэль-Загнетава



**Ц** — *дваццаць пятая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай* Ц *(«цы»), якая была графічнай дыферэнцыяцыяй старажытнаяўрэйскай* ⵅ *(«цадэ»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычны гук* ц (улица, цнота). *Мела таксама лічбавае значэнне «дзевяцьсот». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваццa як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумныя глухія злітныя пярэднеязычныя зычныя гукі* ц, ц' (кастрыца, палац, цвёрды — *«ц'в'орды'»,* ціўкаць — *«ц'іўкац'»). Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ЦЭЦ, ЦУМ), як умоўнае скарачэнне слова «цэнтнер»* (50ц). *Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дваццаць трэці» (група «Ц»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 8ц).*

*А. М. Булыка.*

## ЦАРКОЎНАСЛАВЯНСКАЯ МОВА

Царкоўнаславянская мова — старажытнаславянская літаратурная мова. Па паходжанні гэта старaславянская мова (гл. **Старaславянская мова**), якая падвергласяе ўплыву жывых моў тых славянскіх народаў, што карысталіся ёю. Адрозніваюць мясцовыя зводы, або рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы: усходнеславянская, балгарская, македонская, сербская, харвацкая глагалічная, чэшская і румынская. У Старажытнай Русі царкоўнаславянская мова першапачаткова існавала ў 2 варыянтах, або тыпах. Адзін тып — гэта мова богаслужэбнай літаратуры, перакладзенай або створанай у Балгарыі і іншых славянскіх краінах, якая перапісвалася або чыталася на Русі (евангелле, псалтыр, апостал, чэцці мінеі і інш.). У гэтым тыпе ў аснове захоўвалася старaславянская мова, мясцовыя моўныя рысы тут спачатку адлюстроўваліся слаба. Другі тып утварае славянаруская мова арыгінальных старажытнарускіх твораў, у якіх на старaславянскую моўную аснову ў значнай меры накладваліся ўсходнеславянскія моўныя элементы («Жыціе Феадосія Пячэрскага», «Сказанне аб Барысе і Глебе», «Слова аб законе і боскай ласцы» мітрапаліта Іларыёна і інш.).

На Беларусі ў старажытнасці таксама стваралася багатая пісьмовая спадчына, вытокі якой узыходзяць непасрэдна да пісьмовых традыцый Кіеўскай Русі. З ліку помнікаў, якія захаваліся да нашага часу, варта адзначыць у першую чаргу евангеллі, знойдзеныя ў 19 ст. ў гарадах і манастырах Беларусі: Дабрылава евангелле 1164 г., Полацкае евангелле пачатку 13 ст., Аршанскае евангелле другой палавіны 13 ст., а таксама Друцкае, Лаўрышаўскае і Мсціжскае евангеллі 14 ст. З арыгінальных рэлігійных твораў старажытнарускай эпохі асаблівай увагі заслугоўваюць словы, казанні, павучанні і малітвы епіскапа Кірылы Тураўскага (гл. **Кірыла Тураўскі**), які дасканала валодаў царкоўнаславянскай мовай. Ён умела выкарыстоўваў вытанчаныя прыёмы візантыйскіх прапаведнікаў, насычаў свае творы алегорыямі, проціпастаўленнямі, параўнаннямі і іншымі сродкамі аратарскай мовы (творы Кірылы Тураўскага захаваліся ў пазнейшых зборніках 13—15 ст.). У 12 ст. вялікую асветніцкую дзейнасць праводзіла ў Полацку славутая ігумення Ефрасіння Полацкая (гл. **Ефрасіння Полацкая**), якая, як паведамляецца ў яе жыціі, «нача книгы писати своими руками, и наемъ емлюще требующимъ даяше». Асветніцкая дзейнасць Ефрасінні падрабязна апісана ў «Жыціі», складзеным, як мяркуюць, неўзабаве пасля яе смерці адным з яе вучняў (захавалася больш за 130 спісаў «Жыція» 15—18 ст.). У той жа час пісьменнік Аўраамій Смаленскі складаў для царкоўнага ўжытку асобныя зборнікі па творах старажытных багасловаў Іаана Златавуста і Яфрэма Сірына.

Аднак на Беларусі ў выніку цэлага рада ідэалагічных і культурных абставін сфера выкарыстання царкоўнаславянскай мовы пачала звужацца за кошт пранікнення беларускай мовы ў канфесіянальную літаратуру. На першым часе гэты працэс закрануў неканaнічныя рэлігійныя творы і ажыццяўляўся рознымі шляхамі. Некаторыя агіяграфічныя і апакрыфічныя тэксты падвяргаліся адаптацыі шляхам стыхійнай ці свядомай замены царкоўнаславянскіх граматычных і лексічных сродкаў адпаведнымі рысамі мясцовай беларускай мовы. Тыповым узорам гэтага роду пісьменства з'яўляецца рукапісны зборнік слоў і павучанняў Іаана Златавуста, Іаана Дамаскіна і жыцій хрысціянскіх пакутнікаў, вядомы цяпер пад назвай «Чэцця» 1489 г. (гл. **«Чэцця» 1489**). Перапісчык гэтай Чэцці паповіч Бярозка з Навагрудка, як заўважыў А. Сабалеўскі, «як быццам выкарыстаў усе магчымасці, каб наблізіць мову царкоўнаславянскіх тэкстаў да мясцовай заходнярускай». Паступовае насычэнне рэлігійных твораў беларускімі моўнымі рысамі прывяло да ўзнікнення ўнутры ўсходнеславянскай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы

асобнага беларускага варыянта, або рэдакцыі гэтай мовы. Пра існаванне ў мінулым такой беларускай рэдакцыі неаднаразова гаварылі гісторыкі ўсходнеславянскіх моў 19 — пачатку 20 ст. А. Вастокаў, А. Віктараў, П. Уладзіміраў, А. Будзіловіч, М. Мурко, А. Сабалеўскі, К. Міхальчук, Я. Карскі, Я. Воўк-Левановіч і інш. Лепшымі ўзорамі беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы можна лічыць выданні Францыска Скарыны (гл. **Францыск Скарына**) — пражскі «Псалтыр» 1517 г. і віленскія «Малая падарожная кніжка» 1522 г. і «Апостал» 1525 г. У гэтых кнігах беларусізмы ў значэнні варыянтных норм адзначаюцца на ўсіх узроўнях пісьмовай мовы. У галіне арфаграфіі вылучаецца частае выкарыстанне літары *е* на месцы этымалагічнага *ѣ*: *вера, грехъ, дело, лето, светъ* і інш. Даволі шырока адлюстравана змяненне ў пэўных пазіцыях у слове гука *у* на *ў* нескладовае, якое абазначалася літарай *в*: *вбогъ, вдарити, вже, втешение, вченикъ*. У назоўніку распаўсюдзіліся формы роднага склону з канчаткам *-у*: *боку, гневу, закону, миру, песку*. Асабовыя займеннікі ва ўскосных склонах больш часта ўжываюцца ў поўнай форме: *мне, тобе, мене, тебе, насъ, васъ* замест царкоўнаславянскіх энклітычных *ми, ти, мѧ, тѧ, ны, вы*. Прыметнікі і дзеепрыметнікі мужчынскага і ніякага роду ў родным склоне адзіночнага ліку выступаюць з варыянтным канчаткам *-ого/-его*: *ближнего, вышнего, грешного, дающего, живущего, положившего*. Сістэма дзеяслова характарызуецца паслядоўным выкарыстаннем мяккага канчатка *-ть* у 3-й асобе абодвух лікаў цяперашняга і будучага часу: *будеть, можеть, посрамить, поють, служать*. Для выданняў Скарыны характэрны шматлікія замены рэдкіх малазразумелых царкоўнаславянскіх слоў адпаведнымі сродкамі тагачаснай беларускай пісьмовай мовы: *выну — всегда, глаголъ — слово, зѣло — вельми, конобъ — горнець, риза — одежда* і інш.

Беларускія моўныя рысы ў помніках на царкоўнаславянскай мове пачалі прыкметна спадаць у апошняй трэці 16 ст. Важную ролю тут адыграла пашырэнне кнігадрукавання, у прыватнасці з'яўленне на Беларусі кніг на царкоўнаславянскай мове маскоўскага тыпу рускіх першадрукароў І. Фёдарава і П. Мсціслаўца. Друкарні Беларусі таго часу ў большасці выпадкаў перадрукоўвалі рэлігійныя кнігі, выдадзеныя ў Маскве. Друкаваныя кнігі канца 16 ст. і пазнейшага часу служылі ўзорам для рукапіснай рэлігійнай літаратуры на царкоўнаславянскай мове. Усё гэта прывяло да значнага паслаблення і выцяснення тых граматычных і лексічных беларусізмаў, якія ў папярэдні перыяд траплялі ў царкоўнаславянскае пісьменства на Беларусі.

З'яўленне на Беларусі з сярэдзіны 16 ст. розных рэфармацыйных плыней з імкненнем іх прыхільнікаў прапагандаваць свае ідэі на мясцовых народных мовах садзейнічала распаўсюджанню з канца 16 да пачатку 18 ст. мноства друкаваных і рукапісных канфесіянальных твораў на беларускай мове. Грамадска-культурная роля царкоўнаславянскай мовы ў гэты перыяд значна звузілася і абмежавалася выкарыстаннем яе выключна ў ролі літургічнай мовы праваслаўнага і уніяцкага набажэнства. У друкарнях Беларусі ў той час на царкоўнаславянскай мове выдавалася пераважна спецыяльная літургічная літаратура тыпу псалтыра, евангелля, апостала, акафіста, канонікa, малітваслова, паўустава, служэбніка, часаслова і інш. Біблія на царкоўнаславянскай мове ў поўным аб'ёме ў старажытнасці на Беларусі не выдавалася.

У канцы 16 — пачатку 17 ст. на Беларусі рэзка абвастрылася барацьба паміж праваслаўем і каталіцызмам. У гэтых умовах для прыхільнікаў праваслаўя царкоўнаславянская мова стала зброяй і сродкам змагання за праваслаўную веру, за нацыянальную свядомасць і рэлігійна-культурную незалежнасць беларускага народа. Прыхільнікі праваслаўя рабілі шматлікія спробы адрадзіць царкоўнаславянскую мову, аднавіць яе аўтарытэт і ранейшую грамадскую ролю. Яна была адным з асноўных прадметаў навучання ў праваслаўных брацкіх школах, на ёй выдаваліся разнастайныя вучэбныя дапаможнікі: азбукі, буквары, граматыкі і слоўнікі. Найважнейшыя з іх — граматыкі Л. Зізанія і М. Сматрыцкага (гл. **«Граматыка» Л. Зізанія, «Граматыка» М. Сматрыцкага**), слоўнікі Л. Зізанія і П. Бярынды (гл. **«Лексікон славенароскі» П. Бярынды, «Лексіс» Л. Зізанія**). У эпоху панавання уніяцкай царквы ствараліся царкоўнаславянска-польскія і царкоўнаславянска-лацінскія слоўнікі для прыхільнікаў уніяцтва, якія добра ведалі польскую і лацінскую мовы.

Царкоўнаславянская мова ва ўсходніх славян пад уздзеяннем жывых народных моў змянялася на працягу ўсяго старажытнага перыяду. Змяненне яе норм добра адлюстроўваюць важнейшыя друкаваныя выданні Бібліі: Астрожская біблія 1581 г. (у 1988 г. перавыдадзена факсімільным спосабам), Маскоўская першадрукаваная біблія 1663 г. і так званая Елізавецінская выпраўленая біблія 1751 і 1756 гг. Апошняя біблія паслужыла эталонам мовы для ўсіх пазнейшых выданняў царкоўнаславянскіх кніг ва ўсходніх славян, пасля яе нормы царкоўнаславянскай мовы застаюцца нязменнымі да нашага часу.

Пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі ў апошняй трэці 18 ст. мясцовыя беларускія друкарні паступова перасталі выдаваць рэлігійныя кнігі на царкоўнаславянскай мове. Патрэбы праваслаўнай царквы тады задавальняліся кнігамі сінадальнага друку. У наш час царкоўнаславянская мова на Беларусі па-ранейшаму застаецца афіцыйнай літургічнай мовай набажэнства ў праваслаўных. Але ў дадатковым набажэнстве і ў пропаведзях выкарыстоўваецца руская мова, у апошні час належнае месца тут пачынае займаць і беларуская мова.

*Літ.*: Церковнославянские элементы в современном литературном и народном русском языке. Ч. 1. Спб., 1893; Карский Е. Ф. Западнорусские переводы Псалтыри в XV—XVII веках. Варшава, 1896; Шакун Л. М. Значэнне царкоўнаславянскай мовы ў развіцці беларускай літаратурнай мовы // Даследаванні па беларускай і рускай мовах. Мн., 1953; Жураўскі А. І. Да пытання аб ролі царкоўнаславянскай мовы ў развіцці беларускай літаратурнай мовы XVI ст. // Матэрыялы да IV Міжнароднага з'езда славістаў. Мн., 1953; Яго ж. Некоторые особенности взаимодействия древнеславянского и белорусского литературных языков // Сов. славяноведение. 1965. № 2; Яго ж. Про білоруський варіант церковнослов'янської мови // Мовознавство. 1967. № 4; Соболевский А. И. История русского литературного языка. Л., 1980; Смирновский П. Грамматика древнего церковнославянского языка (Репринт. воспроизв. изд. 1911). М., 1990; Picchio R. Church slavonic // The slavic literary languages: Formation and development. New Haven, 1980.

*А. І. Жураўскі.*

## ЦЁТКА



Беларуская пісьменніца Цётка (Алаіза Сцяпанаўна Пашкевіч) нарадзілася 15 ліпеня 1876 г. ў былым фальварку Пешчын непадалёку ад в. Бакшты Шчучынскага раёна. У 1894 г. яна паступіла ў 4-ы клас прыватнага вучылішча В. Прозаравай

у Вільні. Вытрымала экзамен на званне хатняй настаўніцы арыфметыкі. У 1902—04 гг. вучылася ў Пецярбургу на курсах выхавальніц і кіраўніц фізічнай адукацыі. Вярнуўшыся на Беларусь, працавала фельчаркай у Нова-Вілейскай бальніцы. Тут разгортвалася яе бурная рэвалюцыйная дзейнасць. Каб пазбегнуць судовай адказнасці, вымушана ў 1906 г. эмігрыраваць. Жыла ў Львове, Кракаве, Закапанэ, Германіі, Італіі. Нелегальна прыязджала на радзіму, удзельнічала ў выданні газеты «Наша доля». Пасля вяртання на радзіму ў 1911 г. выдавала ў Мінску першы на Беларусі часопіс для дзяцей і моладзі «Лучынка» (1914, выйшла ўсяго 6 нумароў). У 1915 г. працавала сястрой міласэрнасці ў Вільні. Памерла 5 лютага 1916 г.

У творчасці Алаізы Пашкевіч яскрава выявіліся асаблівасці фарміравання нацыянальных моўна-стылістычных сродкаў рамантычнай паэзіі, псіхалагічнай прозы, публіцыстычных артыкулаў і нарысаў. Яе творчасць — і адбітак рамантычнага бачання свету, і выява драматычнага лёсу «жанчыны з бунтарскай душой» — паэткі, рэвалюцыянеркі, міласэрнай сястры, настаўніцы і акторкі.

Спадчына пісьменніцы адлюстроўвае асаблівасці станаўлення беларускай літаратурнай мовы і яе стыляў. Вобразна-выяўленчыя сродкі апавяданняў, публіцыстычных артыкулаў і нарысаў абумоўлены ўплывам вуснай народнай творчасці, яе эстэтыкі. Традыцыйныя параўнанні, народны песенны паралелізм у лірычных вершах Цёткі — сродак выявы псіхалагічнага стану гераіні, узмацнення эмацыянальнага гучання твораў («Лета», «Вясковым кабетам», «З чужыны»). М. Багдановіч лічыў фальклорна-песенныя вобразы ў творах паэткі прыкметай беларускасці, адзнакай таго, што нацыянальная паэзія ідзе па сваім родным шляху.

Фарміраванне сродкаў іншасказальнасці і паэтычнай умоўнасці нацыянальнай літаратуры звязана з метафарычным і сімвалічным словаўжываннем Цёткі. Акрамя фальклорнай персаніфікацыі, паэтка выкарыстоўвае іншыя прыёмы метафарызацыі кантэксту: алагічныя спалучэнні — *зайграла б смехам, шэптам, звонам, мёдам* («Скрыпка»), *старэнькія дзеці* («Небывалыя часы»); метафарычнае пераасэнсаванне міжстылёвых лексем — *ніва, палетак, загон, глеба, сявец, гаратай* («Наш палетак»); *араць, засяваць, зерне сыпаць, упраўляці раллю* («Скора прыйдзе вясна»). Агульнаўжывальныя словы, словазлучэнні семантычна і эмацыянальна ўзбагачаюцца ў кантэксце яе мастацкіх твораў. Метафарызацыя кантэксту («Наш палетак», «Лучынка», «Скора прыйдзе вясна» і інш.) дазваляе



Цётка. «Першае чытанне для дзетак-беларусаў». 1906.

выказаць трывогу за лёс роднай мовы, культуры, нацыі, заклікаць да працы на родным палетку.

Новым зместам напаўняе Цётка язычніцкія сімвалы: *сонца — цемра, зямля — неба, папараць-кветка* («На магіле», «Грайка», «Мора», «Бура ідзе»). Мнагазначную трансфармацыю слова *крыж* знаходзім у яе апавяданнях «Прысяга над крывавымі разорамі», «Асеннія лісты», у вершы «Сірацінка». Арыгінальнае ўжыванне традыцыйнага сімвала сведчыць пра майстэрства Цёткі выкарыстоўваць сэнсавыя і вобразныя рэсурсы слова, яго асацыятыўнасць. Афарыстычна гучаць радкі верша «Сірацінка», з якіх паўстае вобраз «наўздзіў трывалага» беларускага народа: *Мы належым да народу, // Што ад свету да заходу // Кожны з гора ўтрое гнецца, // А ўсё ж гору не даецца, // Крыжам ляжа ў крыві ўласнай, // А усё ж верыць зорцы яснай.* Вобразныя асацыяцыі сацыяльнага і эмацыянальнага абумовілі метафарычны кантэкст. Двухпланавасць выказвання заснавана на ўнутраным вобразе фразеалагізма *сагнуць у тры пагібелі*, што значыць 'падвергнуць жорсткай эксплуатацыі, прымусіць скарыцца'. З аўтарскай метафары ўзнікае абагульнены вобраз раскрыжаванага беларускага народа — прыгнечанага, але нескаронага.

Проза Цёткі вызначаецца высокай культурай псіхалагічнага аналізу і мастацкай індывідуалізацыі. Сродак стварэння вобраза — псіхалагізаваны партрэт, лаканізм і выразнасць якога дасягаецца з дапамогай мастацкай дэталі. Характарыстыку персанажа ў яе мастацкай прозе паглыбляюць кантэкстуальныя сінонімы — назвы асобы. Так, у апавяданні «Міхаська» эстэтычна апраўданыя і стылістычна нейтральныя лексемы *Міхась, дзіця, беларус, малы, брат* і эмацыянальна-ацэначныя *Рабы, галдыбар, дармаед, касавокі асмолак, вірутны чорт.* Эмацыянальна афарбаваныя выразы *асеннія лісты, пажоўклыя лісточкі* вырастаюць да мастацкага абагульнення і дазваляюць не толькі пазбегнуць паўтораў, але і паглыбіць характарыстыку персанажаў у апавяданні «Асеннія лісты». Кантэкстуальныя сінанімічныя выразы *ватага паліцэйскіх, храніцелі парадку, разгневаны закон* — сродак стварэння сатырычнага вобраза паліцыі ў абразку «Разумныя ды не на дурня напалі».

Цётка ўзбагаціла нацыянальную мову вобразнымі сінонімамі-перыфразамі, якія сэнсава і эмацыянальна багацейшыя за адпаведныя ім словы. У кантэксце яны набываюць мастацка-эстэтычную вартасць. Так, у апавяданні «Зялёнка» перыфраз *скрываўлены лебедзь,* што семантычна адпавядае слову *песня,* успрымаецца як сродак характарыстыкі гераіні, ды і самой аўтаркі. Толькі кантэксты твора і эпохі даюць магчымасць зразумець глыбіню гэтага вобразнага сіноніма. Песня, у якой «і чысты лірызм і чыстая трагедыя», асацыіруецца з параненай птушкай, а яна звязваецца ў нашым уяўленні з Зялёнкаю, падкошанаю невылечнаю хваробай — сухотамі. Гэта яна змагаецца са смерцю, гэта яе *смяртэльна раненая маладасць плача.* Вобраз гераіні набывае абагульненае значэнне: за ім — тая перадавая, нацыянальна свядомая моладзь, што і ў гады жорсткай рэакцыі верыла ў *шчаслівыя далі,* ірвалася *скрыдлы раніць у страшным бою.* Гэты перыфраз пераклікаецца з фразеалагізмам *лебядзіная песня* — 'апошні, найбольш значны чый-небудзь твор, апошняе праяўленне таленту, здольнасці' — і з народным паданнем, што лебедзь пяе адзін раз у жыцці — перад сваёй смерцю.

Пра смерць Зялёнкі ў канцы апавядання пісьменніца скажа: *Разбілася жывая ліра* — памерла натура паэтычная, творчая, душа якой адгукалася на сапраўднае мастацтва, зведала яго незвычайную сілу.

Нетрадыцыйныя, арыгінальныя Цётчыны перыфразы папаўняюць сінанімічныя рэсурсы нацыянальнай мовы, узбагачаюць яе выяўленчыя магчымасці: *унучка паломанай ліры* — жалейка, *прасці доўгую нітку быцця* — жыць, *выбалелыя разоры твару* — маршчыны, *карэнні людскасці* — хлебаробы, *закрасаваўшыя кветкі людскасці* — вучоныя. Экспрэсію і драматызм узмацняюць паэтычныя, узнёслыя перыфразы, сінанімічныя слову *маладосць: цвет, толькі раз цвітучы; першае дыханне вясны без хмарак; надзея ў брыльянтавым вянку над бяздоннай глыбай.*

Пры апісанні знешняга аблічча персанажаў пісьменніца трапна ўжывае эмацыянальна-ацэначныя словы, параўнанні, устойлівыя выразы. Ча-

сам яна ўжывае словы і ўстойлівыя выразы, характэрныя для гаворак паўночна-заходняй Беларусі: *патыкаваць* — дражніць, *літавацца* — шкадаваць, *куксіць* — біць, *дрэчыцца* — забаўляцца, *знецярплівіцца* — страціць цярпенне, *выблекаваны* — выцвілы, *пашмараваць пальцы* — даць хабар. Узаемадзеянне ў мастацкай прозе Цёткі агульнанародных і рэгіянальных слоў адлюстроўвае спецыфіку фарміравання беларускай літаратурнай мовы і яе вобразна-эмацыянальнай лексікі.

Публіцыстычная спадчына пісьменніцы выяўляе грамадзянскую пазіцыю аўтара, яе высокі дух і эмоцыі ў змаганні за нацыянальнае адраджэнне беларускага народа, будучыні Беларусі — маладых людзей: «На вас — моладзі — ляжыць вялікая павіннасць: развіваць далей родную мову, узбагачваць свой народ знаннем і культурай. Вы здабываеце навуку для сябе, дык дзяліцеся ёю з тымі, хто для вас цяжкай працай здабывае кусок хлеба. Толькі не кідайце роднай мовы: бо сапраўды для свайго народа тады вы ўмёрлі!» (Цётка. Творы. Мн., 1976. С. 218).

Выступленні пісьменніцы ў перыядычным друку 1914 г. («Да вясковай моладзі беларускай», «Шануйце роднае слова!», «Аб душы маладзёжы», «Папараць-кветка») — гэта ўсхваляванае слова да сваіх сучаснікаў і нашчадкаў — берагчы родную мову, захаваць яе як вечны скарб душы. Артыкул «Шануйце роднае слова!», які С. Александровіч назваў «палымяным гімнам беларускай мове, яе багаццю і сіле», пераклікаецца з «Пагоняй» М. Багдановіча, з «Ворагам беларушчыны» Я. Купалы, з «У чатырохлецце «Нашай нівы» А. Гаруна. Выразнасці і эмацыянальнасці выказвання дасягае аўтарка ўмелым скарыстаннем агульнанароднай лексікі, семантычных адценняў слоў, іх эмацыянальна-ацэначнай афарбоўкі. Афарыстычна гучаць радкі пра гарманічную, духоўна багатую асобу: «Бедны той, хто, апрача грошы, апрача багацця, каторае пры першым няшчасці счэзне дазвання, не мае скарбаў вечных — скарбаў душы. Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць ад нас не здалее, гэта любоў да бацькаўшчыны, да свайго народу, да роднай мовы,— гэта вялікае міласаванне чалавека — слабога, пакрыўджанага» (тамсама. С. 216). Экспрэсію выказванню надаюць паўторы лексемы *скарбы*, лагічнае выдзяленне яе ў тэксце. Аднародныя члены сказа, эмацыянальна-экспрэсіўнае адчляненне азначэнняў, сінтаксічны паралелізм — прыёмы, з дапамогай якіх ствараецца публіцыстычная напоўненасць, урачысты тон кантэксту. У артыкуле «Шануйце роднае слова!» лексемы *чужы, чужынец*, а таксама сінанімічныя выразы *адрачыся мовы бацькоў — уздзець чужую апратку* нясуць негатыўную экспрэсію: «Хто адрокся мовы бацькоў сваіх, хто ўздзеў чужую апратку — той адышоў ад народу далёка-далёка. Ён чужы ў роднай вёсцы, у сваёй сям'і. І на яго браты глядзяць, як на чужынца...» (тамсама. С. 217). Алегарычны выраз *уздзець чужую апратку*, што значыць страціць нацыянальную адметнасць, асімілявацца, а таксама сінанімічны выраз *падшывацца пад апраткі чужых культур* — выява індывідуальна-моўнай арыгінальнасці аўтаркі, арганічнай узаемасувязі яе публіцыстычнай і мастацкай творчасці, а таксама і спецыфікі публіцыстычнага стылю на этапе яго станаўлення.

Моўныя прыёмы газетна-публіцыстычнага і мастацкага стыляў спалучаюцца ў артыкулах «Папараць-кветка», «Аб душы маладзёжы», «Да вясковай моладзі беларускай». Метафарычныя выразы, разгорнутыя параўнанні, словы з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі, аўтарскія ўрачыстыя перыфразы, традыцыйныя сімвалы, што ў кантэксце набываюць дадатковую сэнсавую напоўненасць, а таксама прыёмы «эмацыянальнага» сінтаксісу (рытарычныя пытанні, анафарычны паўтор, звароткі) ствараюць экспрэсію выказвання, надаюць яму прамоўніцкі пафас, перадаюць заклік да духоўнага адраджэння, маральнага і грамадзянскага сталення маладых людзей: «Захавайце ж сэрцы вашы чыстымі на ўсё жыццё і памятайце, што светлыя сны вашы аб волі, роўнасці і брацтве збываюцца, што з усходам сонца яны не рассейваюцца разам з цемрай начной, а становяцца праўдай жыццёвай. Гартуйце душы вашы, каб халодны сівер іх не замарозіў, каб вечна аставаліся маладымі, і ніякая сіла не здолее забіць у іх жадання працаваць для святой ідэі» (тамсама. С. 229).

Фальклорна-паэтычная стылістыка, а таксама індывідуальна-аўтарскае ўжыванне слова, выразу ў нарысе «З дарогі» — тыя прыёмы, што ствараюць эмацыянальнасць, рамантычную ўзнёсласць, лірызм: «Старасць ты сваю глыбокую датчэш на Анельчыных руках, апошні вузялок табе Анелька завяжа, гарачай датчынай слязой яго абалье...» (тамсама). Далікатнасці ў выяве пачуццяў лірычнай гераіні, шчымліва-даверлівай інтанацыі выказвання спрыяюць нетрадыцыйныя перыфразы: *даткаць старасць* — памерці, *завязаць апошні вузялок* — пахаваць, *слязой абліць* — аплакаць.

Асаблівасці станаўлення навуковага стылю выявіліся ў артыкулах і нарысах на навуковыя тэмы. Так, у навукова-папулярным артыкуле «Наша народная беларуская песня» пераважаюць лексіка-сінтаксічныя прыёмы, уласцівыя народнай гаворцы, фальклору, мастацкай літаратуры. Моўна-выяўленчыя сродкі, сінтаксічная арганізацыя артыкула «Да дзяўчатак» і нарыса «Гутаркі аб птушках» маюць характэрныя рысы народнай прозы. Спецыфіка фарміравання навуковай тэрміналогіі выяўляецца ў артыкуле «Да школьнай моладзі», у нарысах «Пералётныя птушкі», «Газа». Так, у артыкуле «Да школьнай моладзі» побач са спецыяльнай запазычанай лексікай *(батаніка, гіграскапічны)* Цётка ўжывае ў якасці спецыяльных батанічных найменняў словы жывой народнай мовы — *стрымбульчык, каліва, зёлкі*. У яе навуковых артыкулах — выразная тэндэнцыя да стылявой дыферэнцыяцыі беларускай мовы, хоць і надзвычай адчувальныя працэсы ўзаемапранікнення і ўзаемаўплыву.

Мастацкая, публіцыстычная, эпісталярная спадчына Цёткі — вялікі набытак нацыянальнай культуры. Мова яе твораў багатая на самабытныя, індывідуальна-аўтарскія ўтварэнні і арыгінальнае скарыстанне іх у кантэксце, на разнастайныя эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні, што складае непаўторнасць творчай манеры пісьменніцы. Яе творчасць адлюстроўвае асноўныя працэсы ўзбагачэння вобразна-выяўленчай сістэмы мастацкага твора, сведчыць пра жанрава-стылявую дыферэнцыяцыю і нармалізацыю беларускай літаратурнай мовы ў перыяд яе станаўлення.

*Літ.:* Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастр. перыяд. Ч. 2. Мн., 1980; Лысенка А. Сучасны беларускі нарыс. Мн., 1978; Новік М. Мова публіцыстычных артыкулаў Алаізы Пашкевіч // Бел. мова і літ. ў школе. 1991. № 7—8. *М. І. Новік.*

## ЦІКОЦКІ МІХАІЛ ЯЎГЕНАВІЧ



Беларускі мовазнавец, журналіст М. Я. Цікоцкі нарадзіўся 20 лютага 1922 г. ў Бабруйску. Доктар філалагічных навук (1972), прафесар (1973).

У 1950 г. скончыў БДУ. У 1950—52 гг. працаваў у рэдакцыях газет «Савецкі селянін», «Калгасная праўда», «Беларускі універсітэт». З 1953 г. выкладчык, дацэнт, з 1965 г. загадчык кафедры тэорыі і практыкі савецкага друку, у 1969—89 гг.— загадчык кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання факультэта журналістыкі БДУ.

У манаграфіях «Некаторыя выпадкі стылістычнага выкарыстання сінтаксічных сродкаў беларускай мовы» (1958), «Практычная стылістыка беларускай мовы» (ч. 1—2, 1962 — 65), «Стылістыка публіцыстычных жанраў» (1971), «Стылістыка беларускай мовы» (1976), «Сугучнасць слоў жывых...» (1981) М. Я. Цікоцкі даследуе праблемы стылістыкі беларускай мовы і стылістыкі газетных жанраў.

Вучоны зрабіў першыя спробы стылістычнай характарыстыкі лексічных і фразеалагічных сродкаў беларускай мовы з пункту гледжання іх практычнага выкарыстання ў розных стылях і жанрах, распрацоўваў пытанні марфалагічнай і сінтаксічнай стылістыкі. Яго цікавяць не толькі агульнатэарэтычныя пытанні стылістыкі, але і функцыянальныя стылі мовы (размоўны, афіцыйна-дзелавы, навуковы, публіцыстычны, мастацкі), іх класіфікацыя. Навуковыя праблемы беларускай лінгвістыкі М. Я. Цікоцкі разглядае на фоне развіцця сусветнага і айчыннага мовазнаўства. У абсягу яго навуковых інтарэсаў праблемы стылістыкі мастацкай літаратуры і эстэтыкі слова. Літаратурна-мастацкі твор ён успрымае як спецыфічную сістэму эстэтычна арганізаваных моўных вобразаў, у адзінстве іх формы і зместу.

*Літ.:* Наркевіч А. І. М. Я. Цікоцкі: (Да 70-годдзя з дня нараджэння) // Весн. БДУ. Сер. 4. 1992. № 1.

*М. Р. Каваленка.*

## ЦІХІНСКІ ЯЗЭП

Беларускі лексікограф Я. Ціхінскі (год нараджэння невядомы, памёр пасля 1921; псеўданім Язэп Бурачок) жыў у маёнтку Прусін (цяпер Касцюковіцкі раён). Амаль 40 гадоў прысвяціў складанню 16-томнага «Беларуска-польска-рускага слоўніка» на 200 тысяч слоў, частка якога на літары В, Н, О, Р страчана ў Айчынную вайну, а рэшта рукапісу захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі АН Літвы.

Слоўнік напісаны лацінскай графікай польскай мадыфікацыі з захаваннем фанетычнага прынцыпу перадачы слоў, што дазволіла добра адлюстраваць асаблівасці беларускага вымаўлення. Аснову слоўніка складае агульнаўжывальная лексіка беларускай мовы: *адшчапіць, астрог, дрывотнік, карагод, лапік, ласка, палетак* і інш. Разам з агульнанароднымі складальнік змяшчае шмат вузкарэгіянальных слоў розных тэматычных груп. Ціхінскі добра ведаў лексічныя запасы беларускай народнай мовы, бачыў перспектывы яе развіцця і ў слоўнік уключаў найбольш вартае і каштоўнае. Побач з агульнымі назоўнікамі падаюцца тапанімічныя назвы *(Албанія, Гавана, Данцыг, Перм)*, анамастычныя *(Мінерва, Ясон)*, прозвішчы гістарычных асоб *(Тадэуш Касцюшка)*, беларускія бытавыя імёны *(Аксюта, Альбін, Габрусь, Панас)*. Артыкулы з уласнымі назвамі выходзяць за межы філалагічных і паводле зместу, прыёмаў тлумачэння блізкія да энцыклапедычных. Вялікае месца ў слоўніку займае тэрміналагічная лексіка з розных сфер чалавечай дзейнасці. Амаль усе запазычаныя словы, уключаныя ў слоўнік, замацаваліся ў нашай мове і складаюць яе актыўны запас. Многія рэестравыя словы суправаджаюцца сінонімамі ці блізказначнымі словамі, колькасць якіх бывае даволі значнай, хоць не ўсе яны аднолькава блізкія да загаловачнага слова паводле значэння. Напрыклад, пры загаловачным *Агладзіць* падаюцца сінанімічныя дзеясловы *адпаліраваць, адшліфаваць, адглянсаваць, выгладзіць, выпаліраваць* і яшчэ некалькі аднакаранёвых прыставачных утварэнняў. Багатай сінанімікай вызначаюцца эмацыянальна афарбаваныя назоўнікі, дзеясловы. Складальнік усебакова раскрываў значэнні слоў, даваў ім кваліфікаванае філалагічнае тлумачэнне, на аснове семантычнага аналізу дэталёва размяжоўваў значэнні слоў, іх адценні. Граматычныя паметы выкарыстоўваюцца абмежавана: ёсць спецыяльныя паказчыкі для назоўнікаў, дзеясловаў, прыслоўяў, зрэдку вызначаецца род назоўнікаў, сустракаюцца іншыя бессістэмныя заўвагі граматычнага характару. Рэестравая частка слоўніка забяспечана багатым ілюстрацыйным матэрыялам: кароткімі сказамі побытавага зместу, асобнымі фразамі і словазлучэннямі.

Слоўнік Я. Ціхінскага адыграў важную ролю ў стварэнні перакладных руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў, складальнікамі якіх былі М. Байкоў і С. Некрашэвіч.

*Літ.:* Гуліцкі М. Ф. З лексікаграфічных здабыткаў//Бел. мова. Мн., 1980. Вып. 8.

*М. Ф. Гуліцкі.*

## ЦЫХУН ГЕНАДЗЬ АПАНАСАВІЧ



Беларускі мовазнавец Г. А. Цыхун нарадзіўся 30 кастрычніка 1936 г. ў в. Кунцаўшчына Гродзенскага раёна. Доктар філалагічных навук (1982). У 1958 г. скончыў Ленінградскі універсітэт. У 1958—59 і з 1963 г. ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі (з 1974 г. старшы навуковы супрацоўнік, з 1990 г. загадчык аддзела славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства). Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі (АНЕ, 1994), акадэмік АНЕ (1994).

Г. А. Цыхун — аўтар каля 200 навуковых прац па тыпалогіі славянскіх моў і іх сувязях, моўных саюзах, гаворках Палесся і праблеме праславянскай мовы, па беларускай этымалогіі і дыялектнай мове, гісторыі і бібліяграфіі беларускай мовазнаўчай славістыкі.

Некаторыя пытанні сінтаксісу клітычных (ненаціскных) форм асабовых займеннікаў на матэрыяле балгарскай і македонскай літаратурных моў Г. А. Цыхун даследаваў у манаграфіі «Сінтаксіс займеннікавых клітык у паўднёваславянскіх мовах: (Балканаславянская мадэль)» (1968). У манаграфіі «Тыпалагічныя праблемы балканаславянскага моўнага арэала» (1981) на матэрыяле паўднёваславянскіх гаворак Г. А. Цыхун даследаваў шляхі і напрамкі распаўсюджання балканскіх інавацый, вызначыў іх цэнтры ў межах балканаславянскага арэала.

Разглядаючы некаторыя з'явы ў развіцці групы так званых зменных энклітык і праклітык у славянскіх мовах, Г. А. Цыхун ставіць пытанне пра сувязь паміж функцыяй і дыстрыбуцыяй клітык і іх месца ў структуры сказа («Энкліза і праkліза ў структуры славянскага сказа». 1968).

Увагу вучонага прыцягнуў шэраг паўднёваславянска-ўсходнеславянскіх ізаглос, у тым ліку семантычных (структурных) паралелей («Паўднёваславянска - ўсходнеславянскія моўныя сувязі: Да праблемы славянскага ўкладу ў балканскі моўны саюз», 1983). У адносінах шэрага інавацый, цэнтры якіх знаходзяцца на паўднёваславянскай тэрыторыі, вучоны выказвае меркаванне, што яны ўпершыню ўзніклі на гэтай

тэрыторыі і распаўсюдзіліся ў межах міжмоўнай арэальнай агульнасці, вядомай як балканскі моўны саюз.

Г. А. Цыхун выявіў адрозненне паміж дыялектным падзелам і арэальнай структурай беларускай моўнай тэрыторыі («Арэальная тыпалогія славянскіх моў: Прынцыпы і напрамкі даследавання», 1988). Дыялектны падзел, на яго думку, адлюстроўвае вынікі генетычнай дыферэнцыяцыі, а арэальная структура — вынікі інтэграцыйных працэсаў у межах дыялектнай тэрыторыі, на якой сфарміравалася беларуская мова.

У працы «Арэальныя аспекты фарміравання славянскіх літаратурных моў» (1993) Г. А. Цыхун разглядае праблему арэальнай базы беларускай літаратурнай мовы на фоне іншых славянскіх моў.

Шмат Г. А. Цыхун працуе над праблемамі сувязі беларускай мовы з іншымі мовамі: «Беларуска-паўднёваславянскія лексічныя сувязі. Некаторыя праблемы і вынікі» (Беларуская лінгвістыка. Мн., 1974. Вып. 5), «Да праблематыкі беларуска-балгарскіх моўных сувязей» (Бюлетин за съпоставително изследване на българския език с други езици. София. 1976. № 5), «Вызначэнне генетычнай, тыпалагічнай і арэальнай блізкасці славянскіх моў (у прыватнасці — беларускай і балгарскай моў)» (Съпоставително езикознание. София, 1980. № 5), «Два палеска-паўднёваславянскія адпаведнікі» (Палессе і этнагенез славян. М., 1983; на рус. мове), «Вывучэнне балгарска-ўсходнеславянскіх моўных сувязей. Некаторыя вынікі і перспектывы» (Савецкая балгарыстыка. Вынікі і перспектывы. М., 1983; на рус. мове), «Да рэканструкцыі праславянскай метафары» (Этымалогія 1984. М., 1986; на рус. мове) і інш.

Славістычныя інтарэсы Г. А. Цыхун спалучае з даследаваннямі ў галіне беларускай мовы. Ён сааўтар «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1—7, 1978—91) і «Тураўскага слоўніка» (т. 1—5, 1982—87), адзін з ініцыятараў і пастаянных удзельнікаў сімпозіумаў па вывучэнні лексічных сувязей беларускай мовы з суседнімі славянскімі і неславянскімі мовамі. Матэрыялы гэтых сімпозіумаў выдадзены пад яго рэдакцыяй у 4 зборніках 1969, 1971, 1973 і 1975 гг. З 1970-х гадоў выходзяць падрыхтаваныя ім бібліяграфічныя агляды беларускай мовазнаўчай славістыкі ў часопісе «Rocznik slawistyczny» («Славянскі штогоднік»).

*Тв.:* Палескія назвы посуду, бочак, кошыкаў і іншых ёмістасцей//З народнага слоўніка. Мн., 1975; Са спецыяльнай лексікі Гродзеншчыны (разам з А. П. Цыхуном)//Народнае слова. Мн., 1976; Тыпалогія сінтаксічных адрозненняў у балкана-славянскім арэале. Мн., 1978; Лексіка дзіцячых гульняў і забаў (разам з А. П. Цыхуном) // Народная словатворчасць. Мн., 1979; Славянскія прыналежныя канструкцыі з займеннікавай клітыкай: (Да методыкі вызначэння цэнтра інавацыі)//Бел. лінгвістыка. Мн., 1981. Вып. 20; О балтийско-славянском языковом союзе // Fargptautinė baltistu konferencja: Pranešimų, tezės. Vilnius, 1985; «Мне сонцам свеціць Наднямонне...»: (Нататкі аб уласных імёнах у «Новай зямлі»)//Каласавіны: Зб. навук. прац з нагоды дня нарадж. нар. паэта Беларусі Якуба Коласа. Мн., 1986; У славянскім кантэксце // Полымя. 1987. № 2; Водгулле Вукавых рэформ у Беларусі і Македоніі // Весн. БДУ. Сер. 4. 1988. № 2; Аб славенска-беларускіх моўных сыходжаннях // III. nemzetközi szlavisztikai napok. Szombathely, 1988; Задачи сохранения и восстановления историко-топонимического ландшафта Белоруссии//Всесоюзная научно-практическая конференция «Исторические названия — памятники культуры»: Тез. докл. и сообщений. М., 1989; Языковая интеграция, языковая экология и языковые союзы // Interlinguistica Tartuensis 6. Тарту, 1989; Да праблемы прыватных міжславянскіх моўных сувязей. // Polszczyzna północnowschodnia: Metodologia badań językowych. Wrocław etc., 1989; Мадэрнізацыя ці русіфікацыя//Бел. мова і літ. ў школе. 1990.№ 7; Паўднёваславянскі кампанент у мове Францыска Скарыны // Бел. лінгвістыка. Мн., 1990. Вып. 38; Пра адзін выпадак народнаэтымалагічнай субстытуцыі (усх.-слав. *наморожня* 'дэталь у санях') // Slavia Orientalis. 1990. R. 39. Nr 3—4; Славістычныя інтарэсы І. І. Сразнеўскага: Рэзія і ўсходнія славяне // Славянские языки, письменность и культуры. Киев, 1993.

*Літ.:* Вярэніч В. Л. Г. А. Цыхун: Да 50-годдзя з дня нараджэння // Бел. лінгвістыка. Мн., 1986. Вып. 30.

*М. Н. Крыўко.*

## ЦЮРКСКІЯ МОВЫ

Да цюркскіх моў адносіцца моўная сям'я з шырокім геаграфічным распаўсюджаннем ад Прычарнамор'я і Каўказа да Сярэдняй Азіі і Усходняй Сібіры з агульнай колькасцю носьбітаў амаль 100 млн. Носьбіты гэтых моў добра разумеюць адзін аднаго без перакладу, што сведчыць аб познім распадзе працюркскай мовы. Існуюць розныя гіпотэзы пра яе паходжанне. У адпаведнасці з алтайскай гіпотэзай цюркскія мовы аб'ядноўваюцца з тунгуса-маньчжурскімі і мангольскімі ў адну групу родных моў. Паводле некаторых даных, да гэтай групы адносяцца таксама карэйская і японская мовы. Урала-алтайская гіпотэза, апрача вышэй пералічаных алтайскіх моў, адносіць сюды і ўральскія (фіна-угорскія і самадыйскія) мовы. Фармальнае і семантычнае падабенства гэтых моў разглядаецца як паказчык іх генетычнай тоеснасці, інакш кажучы, сцвярджаецца, што яны ўзніклі не ў выніку кантактаў, а праз распад агульнай прамовы. Правільнасць гэтых разважанняў залежыць ад надзейнасці метадаў сучаснага параўнальна-гістарычнага мовазнаўства. Найбольш вялікая з сучасных цюркскіх моў турэцкая мова (больш за 45 млн. носьбітаў) лакалізуецца на тэрыторыі Малой Азіі і на сумежных з ёй тэрыторыях. На паўночна-ўсходняй яе частцы вылучаецца дыялект, блізкі да азербайджанскай мовы. Астатнія цюркскія мовы займаюць тэрыторыю, якая падзяляецца на 5 арэалаў: заходні, каўказскі, волжска-ўральскі, сярэднеазіяцкі і сібірскі. Заходні арэал уключае беларускіх і літоўскіх татараў, караімаў, крымскіх татараў, гагаузаў і туркаў. Гістарычна ён склаўся з кыпчакоў (насельнікі Крымскага ханства) і агузаў (насельнікі Асманскай імперыі). Да іх таксама адносяцца вядомыя сваімі нападамі на Кіеў печанегі, якія рана асіміляваліся з іншымі народамі, і полаўцы. Палавецкая мова захавалася ў помніках, сярод якіх вядомы «Кодэкс Куманікус» (13 ст.). Яе называлі ў мусульманскіх крыніцах кыпчацкай, у еўрапейскіх — куманскай, у старажытнарускіх — палавецкай.

Беларускія і літоўскія татары і літоўскія караімы — выхадцы з Крыма. У іх мове шэраг агульных рыс, што ўзніклі пад уплывам славянскага асяроддзя. Напрыклад, беларускія татары зліліся з мясцовым насельніцтвам і пакінулі помнікі не толькі на татарскай мове, але і на беларускай, пісаныя арабскімі літарамі (гл. **Кітабы**).

Крымскія татары, якія пасля сталінскіх рэпрэсій 1944 г. жылі ў выгнанні ў Казахстане і Узбекістане, зараз вяртаюцца ў Крым (тут іх ужо каля 100 тыс.). Найбольшая група цюркамоўнага насельніцтва заходняга арэала — гэта гагаузы, якія жывуць у паўднёвай частцы Малдовы (больш за 150 тыс.).

Другі арэал цюркскіх моў — Каўказ і Дагестан. Найбольшую колькасць іх носьбітаў складаюць азербайджанцы. Агульная іх колькасць дасягае 15 млн. (галоўным чынам у іранскім Азербайджане і 5 млн. у Рэспубліцы Азербайджан). Да цюркскіх моў Дагестана адносяцца кумыкская і карачаева-балкарская (кожная з іх мае каля 200 тыс. носьбітаў).

Трэці арэал цюркскіх моў — Паволжа і Урал. Тут з іх найбольш шматлікія чувашы, татары і башкіры. Носьбіты чувашскай мовы (больш як 1,5 млн.) — нашчадкі старажытных волжскіх булгар. Найбольшы цюркамоўны народ у гэтым арэале — татары (казанскія татары). Агульная іх колькасць каля 6 млн. Татарская і башкірская (больш за 1 млн. носьбітаў) мовы ўзыходзяць да кыпчацкай з моцным уплывам булгарскай.

Чацвёрты арэал — гэта мовы Сярэдняй Азіі і Казахстана. Этнаграфічна носьбіты гэтых моў маюць рознае паходжанне: узбекі і уйгуры адносяцца да карлукскай групы, казахі, кыргізы і каракалпакі — да кыпчац-

кай, туркмены — да агузскай. Тут назіраецца і моцны ўплыў старажытнаіранскіх моў. Найбольш шматлікія сярод цюркскіх народаў узбекі (больш за 14 млн.), казахі (каля 8 млн.), уйгуры (больш за 6 млн., пераважна ў Сіньцзян-Уйгурскім аўтаномным раёне Кітая). Кыргізы і туркмены маюць каля 1 млн. моўных носьбітаў (кожная нацыя). Да старажытнауйгурскай і старажытнаагузскай моў адносіцца мова архонаенісейскіх надпісаў (7—8 ст. н. э.).

Пяты арэал — гэта мовы Сібіры, асноўную частку якіх складаюць якуцкая і далганская. Яны ўзыходзяць да старажытнауйгурскай мовы з моцным уплывам тунгускай і мангольскай моў. Агульная колькасць якутамоўных насельнікаў каля 300 тыс. Амаль тое самае можна сказаць і пра носьбітаў тувінскай мовы (больш за 100 тыс.), продкі якіх змяшаліся з самадыйскімі і мангольскімі плямёнамі. Невялікія па колькасці хакасы (каля 60 тыс.) звязаны паходжаннем з кетамі, самадыйцамі і іншымі палеасібірскімі народамі.

Асноўныя арэалы рассялення носьбітаў цюркскіх моў узніклі пасля мангольскага нашэсця (13—14 ст. н.э.).

З тыпалагічнага пункту погляду цюркскія мовы адносяцца да аглюцінатыўных, г. зн. ім характэрна сістэма словаўтваральных і словазмяняльных аднафункцыянальных афіксаў. З аглюцінацыяй генетычна звязаны сінгарманізм, або т. зв. гармонія галосных. Гэта значыць, усе склады слова маюць або галосныя пярэдняга рада (*е*, *і*), або задняга рада (*а*, *и*). Склад трохсастаўны: зычны—галосны—зычны. Двухсастаўныя склады паходзяць ад трохсастаўных, яны ўзніклі ў выніку выпадзення першага зычнага. Сістэма галосных фанем фактычна зводзіцца да галоснага прыгука, які падзяляе склады, і тэмбр якога залежыць ад структуры слова (пярэдні або задні рад), структуры першага каранёвага склада (наяўнасць або адсутнасць лабіялізацыі), зычнага, які ўплывае на наступны галосны (верхні або ніжні пад'ём).

Для вельмі багатай сістэмы зычных характэрны палатальны рад. Ён узнік на аснове пярэднеязычных мяккіх. Заднеязычныя мяккія засталіся без змен.

Марфалогія цюркскіх моў вызначаецца афіксамі, якія выконваюць функцыі 5 склонаў: родны — *(п)уп*, вінавальны—*(п)у*, накіроўваючы — *(γ)а*, мясцовы — *da/ta*, зыходны — *dan* (назоўны склон не мае асобнага афікса). Множны лік маркіруецца афіксам — *lar*. Наступныя афіксы маркіруюць 6 асоб (адзіночнага і множнага ліку): 1 — *man;* 2 — *san;* 3 — нулявы; 4 — *byz*; 5 — *ynyz*; 6 — нулявы або форма, якая супадае з афіксам множнага ліку — *lar*.

Марфалагічная структура слова паказвае, што найбольш блізкае да кораня становішча займаюць афіксы словаўтварэння, найбольш далёкае — афіксы словазмянення.

Для сінтаксісу словаспалучэння характэрны так званы ізафет, г. зн. спалучэнне 2 назоўнікаў без марфалагічных афіксаў, з якіх 1-ы з'яўляецца азначэннем 2-га: азербайджанскае *дэмір ол* 'чыгунка' (літаральна 'жалеза дарога'). Сінтаксічная сувязь можа ўскладняцца марфалагічнай, калі назоўнік, які азначаецца, мае афікс прыналежнасці 3-й асобы, або, апрача гэтага, само азначэнне мае афікс роднага склону.

Лексічны фонд цюркскіх моў мае агульную частку з алтайскімі мовамі. Але ў працэсе іншамоўных кантактаў у цюркскія мовы пранікла шмат слоў з санскрыту, старажытнаіранскіх моў, кітайскай мовы (праз мангольскую і маньчжурскую). У 11—15 ст. у сувязі з прыняццем ісламу ў цюркскія мовы пранікла арабская і персідская лексіка.

Цюркізмы пранікалі ў беларускую мову ў розныя гістарычныя перыяды нераўнамерна. Гэта пераважна назвы асоб паводле адміністрацыйных пасад, роду заняткаў, веравызнання, фізічных і духоўных якасцей *(аксакал, арап, атаман, гайдамак, джыгіт, казак, чабан)*, назвы адзення, абутку і матэрыялаў для іх вырабу *(атлас, каракуль, сарафан, халат)* і інш.

Кожны беларус разумее не меней як 2 тыс. цюркскіх слоў.

*Літ.:* Вольскі В. Цюрка-татарскія элементы ў беларускай мове//Узвышша. 1929. № 6; Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія. Мн., 1961; Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970; Маметаў І. Беларуска-крымска-татарскі слоўнік//Байрам. 1991. № 2—3, 4, 5; Тюркские лексические элементы в восточных и западных славянских языках. Мн., 1969; Сравнительно-историческая грамматика тюркских языков: Фонетика. М., 1984; Серебренников Б. А., Гаджиева Н. З. Сравнительно-историческая грамматика тюркских языков. 2 изд. М., 1986; Сравнительно-историческая грамматика тюркских языков: Морфология. М., 1988; Рагаўцоў В. І., Юрэвіч А. К. Уводзіны ў мовазнаўства. Мн., 1987; Räsänen M. Versuch eines etymologischen Wörterbuchs der Türksprachen. Bd. 1. Helsinki, 1969.

*В. І. Мартынаў.*

| | |
|---|---|
| Ѵ | Устаў 11 ст. |
| Ч | Паўустаў 15 ст. |
| Ч | Паўустаў 16 ст. |
| Ч | Паўустаў 17 ст. |
| Ч | Скорапіс 15 ст. |
| Ч | Скорапіс 16 ст. |
| Ч | Скóрапіс 17 ст. |
| Ч Ч | Ф.Скарыны 16 ст. |
| Ч Ч | Статута ВКЛ 1588 г. |
| Ч Ч | Друкаваная 17 ст. |
| Ч | Грамадзянская 18 ст. |

*.. І мова беларуская кранае*
*Душу, як песня салаўёў у маі.*
*Клад неацэнны, што няшчадна змрок сячэ,*
*Агонь, што людзі ў сэрцах захавалі,*
*Дзе светач сілай роўны ёсць яшчэ?..*
*О, гэты спевы ў абраселым вецці,*
*Без іх не варта жыць на белым свеце!*

Хута Берулава



**Ч** — *дваццаць шостая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай* Ѱ *(«чэрв»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала зычны гук* ч (бочка, чаша). *Наяўнасць у старабеларускім пісьменстве паралельных варыянтаў тыпу* личыти — личити, чудо — чюдо *тлумачыцца традыцыйным характарам тагачаснага пісьма і не сведчыць аб мяккасці* ч. *Мела таксама лічбавае значэнне «дзевяноста». У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваццa як вялікая і малая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумны глухі зацвярдзелы злітны пярэднеязычны гук* ч (чаромха, чысты, чытач). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ЧФ, ЧТЗ), як умоўнае скарачэнне слова «частка»* (т. *5*, ч. *1*). *Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дваццаць чацвёрты» (група «Ч»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (квадрат № 6ч).*

*А. М. Булыка.*

## ЧАБЯРУК АЛЕНА ІВАНАЎНА

Беларускі мовазнавец А. І. Чабярук нарадзілася 11 лістапада 1925 г. на станцыі Прыяміна Барысаўскага раёна. У 1951 г. скончыла аддзяленне логікі, псіхалогіі і рускай мовы філалагічнага факультэта БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1969). Настаўнічала (1951—52). З 1952 г. ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі (малодшы, у 1976—91 гг. старшы навуковы супрацоўнік аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі). Аўтар больш як 50 навуковых прац, у тым ліку 12 кніг.

Асноўныя кірункі яе даследаванняў — беларуская дыялекталогія і лінгвагеаграфія. Найбольш значныя навуковыя дасягненні мае ў галіне беларускай лінгвагеаграфіі. Яна сааўтар «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963), «Лінгвістычнай геаграфіі і групоўкі беларускіх гаворак» (1968—69), 5-томнага «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» (т. 1. Раслінны і жывёльны свет, 1993). За комплекс работ па беларускай лінгвагеаграфіі А. І. Чабярук разам з іншымі аўтарамі прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР у галіне навукі і тэхнікі (1971).

А. І. Чабярук удзельнічала ў зборы і апрацоўцы матэрыялаў для складання «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа» (першыя 2 выпускі апублікаваны ў Маскве і Бялградзе ў 1988 г.), прымала ўдзел у дыялекталагічных экспедыцыях па назапашванні лексічнага матэрыялу і ўкладанні 5-томнага «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (1979—86), які змяшчае лексіку вялікага дыялектнага арэала. Яна адзін з аўтараў «Хрэстаматыі па беларускай дыялекталогіі» (1962) і «Нарысаў па беларускай дыялекталогіі» (1964). У манаграфіі «Лічэбнік у беларускіх гаворках» (1977) даследчыца аналізуе марфалагічныя асаблівасці лічэбніка і яго сінтаксічныя сувязі з іншымі часцінамі мовы. У рабоце падаюцца сістэмы скланення і склонавых супрацьпастаўленняў лічэбнікаў, раскрываюцца прычыны, што абумовілі розныя марфалагічныя тыпы і сінтаксічныя адносіны гэтай граматычнай катэгорыі. Лексіка-семантычныя, граматычныя і фанетычныя асаблівасці беларускіх народных гаворак разглядаюцца ў артыкулах: «Заўвагі аб націску ў беларускай мове» (1965, з Я. М. Рамановіч), «Структурныя асаблівасці і геаграфія назваў месца скрыжавання і разгалінавання дарог у гаворках Беларусі» (1973), «Нерэгулярныя з'явы ў фанетыцы і граматыцы беларускіх гаворак Заходняй зоны» (1977, у сааўтарстве) і інш. Многа ўвагі аддае даследаванню разнастайных аспектаў балта-славянскіх моўных сувязей: «Лексіка балтыйскага паходжання ў беларускіх гаворках» (1973, у сааўтарстве), «Бытавая лексіка літоўскага паходжання ў Заходняй Беларусі» (1975, у сааўтарстве) і інш.

*Тв.:* Колькасна-іменныя словазлучэнні ў беларускіх гаворках //Беларускі лінгвістычны зборнік. Мн., 1966; Некаторыя акцэнталагічныя адрозненні ў сучасных беларускіх гаворках (з Я. М. Рамановіч) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1966. № 3; Да лексіка-семантычнай дыферэнцыяцыі ў беларускіх народных гаворках (у сааўт.) // Тамсама. 1971. № 1; Да характарыстыкі лексікі паўднёва-заходніх беларускіх гаворак (у сааўт.) // Тамсама. 1972. № 1; К интерпретации некоторых лексических изоглосс в белорусских говорах (у сааўт.)// Диалектологический сборник: Материалы диалектолог. конф. по изуч. говоров и языковых контактов в Прибалтике. Окт. 1972. Вильнюс, 1974; Мікратапанімія Беларусі: Матэрыялы. Мн., 1974 (у сааўт.); У слоўнік Гомельшчыны (з Я. М. Рамановіч) // Народнае слова. Мн., 1976; Лексіка Лельчыцкай гаворкі (з Я. М. Рамановіч) // Народная лексіка. Мн., 1977; З лексікі адной гаворкі Клічаўскага раёна (з Я. М. Рамановіч) // Жывое слова. Мн., 1978.

*Літ.:* Быкава Н. У. А. І. Чабярук: (Да 60-годдзя з дня нараджэння) // Бел. лінгвістыка. Мн., 1985. Вып. 28.

*П. А. Міхайлаў.*

Час дзеяслова — словазменная катэгорыя, якая абазначае адносіны дзеяння да моманту гутаркі. Уласціва толькі дзеясловам абвеснага ладу. Адрозніваюцца 3 часы дзеяслова: цяперашні, прошлы і будучы. Пры гэтым формы цяперашняга і будучага аб'ядноўваюцца ў групу няпрошлых часоў, якая і супрацьпастаўлена формам прошлага часу.

Час дзеяслова цесна звязаны з трываннем: дзеясловы незакончанага трывання маюць поўную парадыгму часавых форм (цяперашні, прошлы і будучы), а дзеясловы закончанага трывання — толькі прошлы і будучы: *бегчы — бягу, бег; буду бегчы; адбегчы — адбег, адбягу.*

Значэнне часу можа быць прамым, або абсалютным. У гэтым выпадку яно выражаецца адпаведнай формай часу і супадае па сэнсе з пунктам погляду гаворачай асобы на момант гутаркі, гэта значыць дзеяслоў цяперашняга часу абазначае дзеянне, якое адбываецца ў момант гутаркі: *Я даю знак, хлопец зачыняе з другога боку дзверы* (В. Быкаў). Вядома, паняцце «момант гутаркі» — чыста ўмоўнае, гэты «момант» можа працягвацца даволі доўга. Параўнайце: *Я тут даўно жыву.* Прошлы час абазначае дзеянне, якое адбылося да моманту гутаркі: *Дзед сядзеў, бязвольна склаўшы карычневыя рукі* (У. Караткевіч). Будучы час паказвае на тое, што дзеянне адбудзецца пасля моманту гутаркі: *Цяпер мы пойдзем дарогай проста на ўсход* (К. Чорны). Аднак значэнне пэўнага часу дзеяслова можа выражацца і формай, якая яму не адпавядае, напрыклад: *Гаспадар убачыў, што дзеці ідуць па ўзлеску.* Дзеяслоў *ідуць* мае форму цяперашняга часу, але гэта зусім не значыць, што названае дзеянне адбываецца ў момант гутаркі. Значэнне словаформы *ідуць* адбываецца ў мінулым. У такіх выпадках гавораць пра адноснае ўжыванне форм часу.

Формы цяперашняга часу, якія абазначаюць дзеянні, што адбываліся да моманту гутаркі, часта ўжываюцца ў мове мастацкай літаратуры. Гэта так званы цяперашні гістарычны (praesens historicum): *Абмерла Агатка: незнаёмы чалавек да яе зверам ідзе. Дзіка закрычала Агатка, бегчы кінулася* (Я. Колас).

Сістэма форм прошлага часу ўключае 3 формы адзіночнага ліку (мужчынскага, жаночага і ніякага роду) і адну форму множнага ліку, агульную для ўсіх 3 родаў. Гэтыя формы ўтвараюцца з дапамогай суфікса *-л-*, які рэалізуецца ў аламорфах *-ў-* ці *-∅* (нуль гука) у мужчынскім родзе, *-л-* у жаночым і ніякім родзе, *-л'-* — у множным ліку, і родавага канчатка ў адзіночным ліку, а ў множным ліку — канчатка *-і*: *вё-ў-∅, чыта-ў-∅, нёс-∅-∅; вя-л-а́, чыта-л-а, нес-л-а; вя-л-о, чыта-л-а, нес-л-а; вя-л-і, чыта-л-і, нес-л-і.*

Значэнне форм прошлага часу дзеясловаў незакончанага трывання — гэта абазначэнне дзеяння як факта мінулага, без указання на яго працяглацсь: *Шумавала мора і у трэці вечар, дзесь далёка караблі плылі...* (А. Звонак). Прошлы час закончанага трывання абазначае дзеянне, якое было ў пэўны прамежак часу ў мінулым, або адбылося ў мінулым, але вынік якога ёсць у наяўнасці і ў момант гутаркі (значэнне былога перфекта). Параўнайце: *Ахнуў за сопкай далёкаю выбух, пракаціўся магутнага пошчаку гром* (А. Звонак); *Дзе парк алеі скрыжаваў, хтось на зямлі нарысаваў прабітае стралою сэрца* (М. Танк).

Дзеясловы прошлага часу незакончанага трывання амаль зусім не могуць ужывацца ў іншым часавым значэнні. Дзеясловы ж закончанага трывання ў гутарковым стылі могуць набываць значэнне будучага часу. Так, чалавек, які толькі збіраецца пайсці, можа сказаць: *Ну, я пайшоў!*

У сучаснай беларускай мове, асабліва ў паўднёвых яе гаворках, бытуюць складаныя формы прошлага часу тыпу *быў прыйшоў, было пачалося, былі паехалі.* Дапаможны дзеяслоў *быць* дапасуецца ў часе, родзе і ліку да асноўнага дзеяслова. Асноўны дзеяслоў звычайна ўжываецца ў закончаным трыванні. Такія складаныя формы маюць значэнне даўнамінулага часу і паказваюць, што дзеянне адбылося раней за другое, што таксама прайшло: *Прыехалі былі студэнты і арганізавалі драмгурток.* Гэта значэнне можа суправаджацца дадатковым адценнем: дзеяслоў абазначае даўнамінулае дзеянне, якое перапыняецца, замяняецца або адмяняецца другім прайшоўшым дзеяннем: *пасеяў быў, але не ўзышло.* Суадносіны дзеясловаў у такіх канструкцыях нагадваюць адносіны адваротнай абумоўленасці *(хоць пасеяў, але не ўзышло)*. Значэнне даўнамінулага часу, калі дзеянне шматкратна паўтаралася, выражаецца і сінтаксічнымі сродкамі *(бывала, усё лета хадзіла на працу ў двор)*. Значэнне прошлага часу маюць таксама аддзеяслоўныя формы, якія абазначаюць імгненнае дзеянне ў мінулым: *бах, блісь, зірк, скок* і пад.

Сістэма форм цяперашняга часу ўключае па 3 асабовыя формы ў адзіночным ліку і ў множным ліку. Спецыяльных фармальных паказчыкаў часу гэтыя формы не маюць: значэнне цяперашняга часу матэрыяльна не выражана, фактычна яго бяруць на сябе асабовыя канчаткі 1-й, 2-й і 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку дзеясловаў незакончанага трывання.

У сучаснай беларускай мове адрозніваюцца 2 асноўныя віды значэнняў цяперашняга часу: уласна цяперашні, або цяперашні актуальны (дзеянне адбываецца на вачах у субяседніка, якраз у момант гутаркі: *ідзе дождж*), і няўласна цяперашні час, або цяперашні неактуальны (дзеянне не дастасавана да пэўнага часу: *птушка лятае, газета выходзіць штодзённа*). Дзеясловы, ужытыя са значэннем неактуальнага цяперашняга часу, паказваюць хутчэй не на дзеянне, а на прыкмету, уласцівую суб'екту. Такое значэнне стварае перадумовы для ўжывання форм цяперашняга часу ў значэнні як прошлага, так і будучага часу: *еду я ўчора з горада, выходзім заўтра ў разведку.*

Сістэма форм будучага часу ўключае простую і складаную (аналітычную) формы. Простую форму будучага часу маюць дзеясловы закончанага трывання; значэнне будучага часу выражаецца тымі ж канчаткамі, якія маюць дзеясловы цяперашняга часу. Складаная форма будучага часу ўтвараецца шляхам спалучэння формы будучага часу дапаможнага дзеяслова *быць* і інфінітыва асноўнага дзеяслова. Такую форму маюць дзеясловы незакончанага трывання: *буду чакаць, будзе прасіць* і г. д. У такой форме будучага часу адсутнічае ўказанне на вынік дзеяння.

У паўднёвых беларускіх гаворках існуе сінтэтычная форма будучага часу незакончанага трывання: *стаяцьму, прасіцьмеш, ведацьмеце, вазіцьмуць* і г. д. Такія формы зрэдку выкарыстоўваюцца і ў мове мастацкай літаратуры: *Наб'е гузак, хто вытнецца, пацэліць той, хто меціцца, бо як яно рабіцьмецца, то так яно і мецьмецца* (В. Вітка).

У старой беларускай мове была больш складаная сістэма часоў дзеяслова. Асабліва гэта датычыць дзеясловаў прошлага часу. Адрозніваліся 4 формы прошлага часу: аорыст, імперфект, перфект і плюсквамперфект. Формы аорыста, як адзначаў Я. Ф. Карскі, у перыяд утварэння мовы беларускай народнасці ўжо не былі жывою з'явою. Аорыст выцесніўся перфектам. Лічыцца, што ў сучаснай беларускай мове захавалася былая форма аорыста дзеяслова *быти* — часціца *бы(б).*

Не ўжываўся ў старажытнай беларускай мове і імперфект, які таксама быў выцеснены перфектам. Асобныя формы імперфекта *(живяху, нарицахуся* і інш.) сустракаюцца ў старажытных летапісах, але ў сучаснай беларускай мове не засталося і следу ад імперфекта.

Перфект абазначаў такое мінулае дзеянне, вынікі якога былі наяўнымі і ў момант гутаркі пра гэта дзеянне. Утвараліся формы перфекта аналітычна: спалучэннем дапаможнага дзеяслова *быти* ў цяперашнім часе і дзеепрыметніка на *-л- (есмь неслъ, еси неслъ, есвъ несли, есте несли* і

г. д.). Выцясняючы імперфект і аорыст, перфект пашырыў сваё значэнне і пачаў абазначаць усякае мінулае дзеянне. З цягам часу дапаможны дзеяслоў стаў страчвацца, а формы дзеепрыметніка на *-л-* сталі ўспрымацца як формы прошлага часу.

Плюсквамперфект (папярэдні мінулы час) абазначаў даўномінулае дзеянне і ўтвараўся спалучэннем дзеепрыметніка на *-л-* і перфекта дзеяслова *быти (есмь былъ неслъ, еси была несла* і г. д.). Рэшткі плюсквамперфекта (у выглядзе *былі неслі, былі ўзнялі)* захаваліся ў сучаснай мове ў выглядзе так званага даўномінулага часу.

Адрозніваліся таксама будучы просты (які меў канчаткі цяперашняга часу), будучы складаны 1-ы і будучы складаны 2-і час. Будучы складаны 1-ы ўтвараўся спалучэннем дапаможных дзеясловаў *быти, имети* ў будучым часе з інфінітывам асноўнага дзеяслова *(буду гуляти, иму читати).* Формы з *буду* засталіся і ў сучаснай мове, а формы з *иму* — толькі ў гаворках *(чытацьму).* Будучы складаны 2-і ўтвараўся спалучэннем дзеяслова *быти* ў будучым часе з дзеепрыметнікам на *-л- (буду купилъ, будуть купили)* і ў сучаснай мове амаль не ўжываецца. Ф. М. Янкоўскі адзначаў, што часам сустракаюцца своеасаблівыя адгалоскі будучага складанага 2-га: *А калі я сама астануся тут яшчэ дзве гадзіны,— усё будзе прапала* (К. Чорны).

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987; Янкоўскі Ф. М. Гістарычная граматыка беларускай мовы. 3 выд. Мн., 1989.

*П. П. Шуба.*

## ЧАСЦІНЫ МОВЫ

Лексіка-граматычныя класы слоў, якія характарызуюцца адзінствам абагульненага значэння, агульнасцю граматычных катэгорый, асаблівасцей словазмянення, спалучальнасці з іншымі словамі, падабенствам асноўных сінтаксічных функцый і спосабаў словаўтварэння, складаюць 10 часцін мовы: назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў, прыслоўе, прыназоўнік, злучнік, часціцы, выклічнік.

Часціны мовы падзяляюцца на паўназначныя (назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў, прыслоўе) і непаўназначныя (прыназоўнік, злучнік, часціцы). Выклічнік знаходзіцца па-за межамі гэтага падзелу. Сярод паўназначных часцін мовы вылучаюцца ўказальныя словы (займеннік), якія не называюць прадметаў, прыкмет ці колькасці, а толькі ўказваюць на іх. Астатнія паўназначныя часціны мовы адносяцца да знамянальных.

Такая класіфікацыя часцін мовы складвалася пастунова і не з'яўляецца завершанай, бо пабудавана не на адзінай лагічнай аснове і не ахоплівае ўсіх магчымых класаў слоў. Яна традыцыйная і, пераважна, практычная, зручная для навучання ў школе. У сучаснай навуковай літаратуры вылучаюцца 3 погляды на часціны мовы: анталагічны (у самой мове аб'ектыўна існуюць разрады слоў, яны нібы прапануюцца самой моўнай сістэмай), навуковы (людзі самі ствараюць класіфікацыі слоў і таму бясконца спрачаюцца пра колькасць часцін мовы), дыдактычны (як лепш падáць сістэму слоў мовы прыстасавальна да запатрабаванняў школы).

Славянская філалогія вывучае часціны мовы яшчэ з даламаносаўскага перыяду (Л. Зізаній, М. Сматрыцкі). М. В. Ламаносаў называў 8 «частак слова»: імя, дзеяслоў, дзеепрыметнік, займеннік, прыназоўнік, злучнік, прыслоўе, выклічнік. А. Х. Вастокаў выключыў дзеепрыметнік з сістэмы часцін мовы, затое падзяліў імя на 2 самастойныя класы: назоўнік і прыметнік. Яшчэ пазней са складу імён былі вылучаны лічэбнікі і дадаткова ўведзены клас часціц, як гэта існуе і цяпер. Свае погляды на класіфікацыю часцін мовы мелі беларускія мовазнаўцы П. М. Шпілеўскі (гл. **Шпілеўскі Павел Міхайлавіч)** і Б. А. Тарашкевіч (гл. **Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч).**

Да п а ў н а з н а ч н ы х (або самастойных) часцін мовы звычайна адносяць і словы, што называюць стан асобы, асяроддзе *(весела, сумна, холадна, шкада, досыць, нельга* і падобныя) ці маюць значэнне ацэнкі (магчымасці або немагчымасці) і г. д. Гэты клас слоў у многіх даследаваннях называюць па-рознаму: прэдыкатывамі, катэгорыяй стану, безасабова-прэдыкатыўнымі словамі, прэдыкатыўнымі прыслоўямі. Н е п а ў н а з н а ч н ы я — перш за ўсё службовыя словы. Асобны клас слоў дзеяслоўнага паходжання — звязкі *(быць, стаць, з'яўляцца* і падобныя) і часціцы.

Усе паўназначныя словы бываюць знамянальныя ці ўказальныя. З н а м я н а л ь н ы я словы называюць прадметы, якасці, працэсы, дзеянні, стан, уласцівасці, лікі, прыкмету прыкметы. Сярод іх можа быць вылучана група лічбавых слоў (лічэбнікі і назоўнікі *раз, палова, трэць, сотня, тузін*; прыслоўі *двойчы, утраіх* і іншыя). У к а з а л ь н ы я, або займеннікавыя, словы не называюць прадметаў, прыкмет, колькасці або акалічнасцей, а толькі ўказваюць на іх *(хто, ты, той, гэты, колькі, там, дзе, калі).*

Усе словы можна падзяліць на зменныя і нязменныя. З м е н н ы я маюць сістэму форм, у кожнай з іх свой адпаведны сродак выражэння, звычайна канчатак. Н я з м е н н ы я словы без канчаткаў.

У жывой моўнай плыні пэўныя часціны мовы са зменай сінтаксічнай функцыі могуць ужывацца нязвычна — адбываецца працэс узаемадзеяння — субстантывацыі: прыметнік становіцца назоўнікам *(**Хворы** стаў папраўляцца)*, назоўнік — прыслоўем (***Лістам** падаю перад табою; Ехаў у аўтобусе **зайцам***), займеннік — часціцай *(А ён сядзіць **сабе** адзін на беразе).* Гл. таксама **Выклічнікі, Дзеяслоў, Займеннік, Злучнік, Лічэбнік, Назоўнік, Прыметнік, Прыназоўнік, Прыслоўе, Часціцы.**

*Літ.:* С у п р у н А. Е. Части речи в русском языке. М., 1971; Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Ш у б а П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987.

*П. П. Шуба.*

## ЧАСЦІЦЫ

Часціцы — непаўназначныя словы, якія выражаюць дадатковыя сэнсавыя, мадальна-валявыя, эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні значэння моўных адзінак — слоў, словазлучэнняў ці сказаў, а таксама прымаюць удзел у выражэнні асобных марфалагічных катэгорый.

Часціцы самі па сабе не маюць ярка выражанага лексічнага значэння. Іх значэннем лічыцца тое дадатковае адценне, якое яны надаюць моўнай адзінцы. Асноўная роля большасці часціц — быць актуалізатарамі выказвання ці яго асобных кампанентаў.

У сучаснай беларускай мове вылучаюцца 4 асноўныя групы часціц. Часціцы 1-й групы выражаюць розныя сэнсавыя адценні значэнняў. Сюды адносяцца ўказальныя часціцы *(вось, вунь, гэта)*, азначальна-ўдакладняльныя *(якраз, іменна, акурат, проста, чыста, прыблізна, сапраўды)*, вылучальна-абмежавальныя часціцы *(толькі, хоць, выключна).* ***Вось** і палянка, і самі баравікі* (А. Вялюгін); *З тае пары другога хамута // Не патрабуе Конь ніколі: // Свайго яму **якраз** даволі, // Хамут стаў — проста любата* (К. Крапіва); *Пусты небасхіл. // **Хоць** маліся, хоць плач ты* (М. Танк).

Да 2-й групы адносяцца часціцы, якія выражаюць мадальныя і мадальна-валявыя адценні. Гэта сцвярджальныя *(так, але, ага, ну)*, адмоўныя *(не, ні, ані)*, пытальныя *(ці, хіба, няўжо, а, ну)* і параўнальныя часціцы *(быццам, нібы, як быццам).* *«Ці вучыў ты майго сына быць ліτасцівым да жывёл, як то належыць чалавеку?» — **«Так»*** (У. Караткевіч); *Не крыўдуй, не журыся, паэт, // Тут заўсёды прычына адна — //Тваіх думак не хітры сакрэт // Ці **не** смелая песень вясна* (А. Куляшоў); ***Ці** добра вам гасцявалася?* (Я. Ку-

пала); *Жыта падступае* ***роўна*** *ласкавае мора* (В. Матэвушаў). Да гэтай групы прымыкаюць часціцы, якія ўжываюцца пры перадачы чужой мовы або думкі *(моў, маўляў, кажа). Дзед ганарыўся галубамі: маўляў, ні ў каго няма такіх разумных птахаў, як у яго...* (Р. Сабаленка).

3-ю групу складаюць эмацыянальна-экспрэсіўныя часціцы. Да іх адносяцца ўзмацняльныя *(нават, і, так, дык, ды, ужо, жа, ні, аж, сабе)*, часціцы, якія выражаюць эмацыянальна-экспрэсіўную характарыстыку асобы, прадмета, дзеяння *(ну і, што за, як, куды)*, часціцы, якія выражаюць эмацыянальную рэакцыю гаворачай асобы на розныя з'явы рэчаіснасці *(вось табе і на, вось дык так, то-та ж). Ты прасіў шлях паказаць — //* ***Што ж*** *далей не йдзеш?* (М. Танк); *Ты паслухай, Апанас, //**Што за** голас, **што за** бас!* (Я. Колас); *«Глядзіце там. Могуць сунуцца ўначы. Каб не праспалі». — «Не праспім»,— буркнуў перакладчык.—* ***«То-та!»*** (В. Быкаў).

У 4-ю групу вылучаюцца часціцы, якія служаць для ўтварэння форм ладу — марфалагічных і сінтаксічных. Гэта часціца *бы (б)*, што ўжываецца як кампанент формы ўмоўнага ладу *(Не заблудзіцца* ***б*** *нам; Дажджу* ***б*** *цяпер!)*, а таксама часціцы *хай, няхай, дай, давай, давайце*, якія ўжываюцца як кампаненты сінтаксічных форм загаднага ладу, напрыклад: ***Хай*** *паслухаюць летам уранку, // Як спяваюць прасторы зямлі* (П. Глебка); ***Давайце*** *разважаць сур'ёзна* (К. Крапіва).

Падзел часціц на 3 групы ў залежнасці ад іх семантыкі і вылучэнне 4-й групы на аснове іх граматычнага статуса ўскладняецца няпэўнасцю значэння асобных часціц і іх полісеміяй. У многіх часціцах актыўна развіваюцца мадальныя значэнні.

Сваім паходжаннем часціцы звязаны з паўназначнымі словамі і з выклічнікамі. Аднак з пункту гледжання сучаснай мовы многія часціцы трэба кваліфікаваць як невытворныя *(а, і, вось, вунь, жа, не, ні, нават* і інш.). Часціцы *хоць (хаця), хай (няхай), бы (б)* таксама трэба лічыць невытворнымі, хоць іх дзеяслоўнае паходжанне адчуваецца даволі выразна — у сучаснай мове ўжо не існуе тых словаформ, з якімі непасрэдна можна было б суадносіць названыя часціцы.

Вытворныя часціцы лёгка могуць быць суаднесены з паўназначнымі словамі ці выклічнікамі. Ад займеннікаў утварыліся часціцы *яно, гэта, сабе*; ад прыслоўяў — *проста, чыста, прыблізна, так, ужо, як, куды* і інш.; ад дзеясловаў — *дай, давай, давайце, бач*; ад выклічнікаў — *ну, ох*. Для надання мове больш яркай экспрэсіі ўжываюцца састаўныя часціцы *дык вось, дык аж, вось ужо, куды там, абы толькі* і інш.: *І ведалі даволі ўсе наўкола, // Што хоць паганы мей ён голас, // Ну* ***дык затое*** *ж кіпцюры!* (К. Крапіва). Састаўныя часціцы звычайна ўтвараюцца шляхам камбінацыі 2 ці больш простых часціц.

Большасць часціц у сучаснай мове не мае пастаяннага, фіксаванага месца ў сказе. Да часціц, якія свабодна перамяшчаюцца ў межах сінтаксічнай канструкцыі, адносяцца *аж, ажно, бы (б), вось, вунь, ды, дык, нават, ужо, хіба* і інш. Праўда, ступень свабоды ў іх неаднолькавая. Так, часціцы *нават, няўжо, ды, дык* звычайна не ўжываюцца ў канцы сказа: яны найчасцей выбіраюць прэпазіцыйнае становішча ў адносінах да той моўнай адзінкі, якая вылучаецца камунікатыўна і мае лагічны націск.

Часціцы, якія маюць фіксаванае месца ў сінтаксічнай канструкцыі, размяшчаюцца або перад той моўнай адзінкай, з якой яны звязаны, або пасля яе. У абсалютнай прэпазіцыі — у пачатку прэдыкатыўнай канструкцыі — размяшчаюцца часціцы *што за, ну*, а таксама сцвярджальная часціца *так* і адмоўная — *не* (якія, па сутнасці, з'яўляюцца эквівалентамі выказвання), у большасці выпадкаў — *няхай* і *бадай*. Часціцы *проста, не, ні, ці, амаль, толькі, іменна* і інш. размяшчаюцца перад словам, да якога адносяцца, а часціцы *жа (ж), такі, сабе* і інш.— у постпазіцыі.

Некаторыя часціцы, якія былі цесна звязаны з асобнымі словамі, ператварыліся ў прэпазіцыйныя ці постпазіцыйныя «прылепы» (як іх трапна назваў В. У. ВіНаградаў), ці, па сутнасці, у афіксы. Гэта *-сь, -сьці, -небудзь, -кольвек (штосьць, кудысьці, хто-небудзь, дзе-кольвек); -ся (-ца)* у зваротных дзеясловах *(пячыся, сыпацца)*; размоўнае *-ка (-тка)* у дзеясловах з імператыўным значэннем *(дай-ка, глядзі-тка)*. Асобныя часціцы выконваюць двайную функцыю: яны ўжываюцца або як часціцы, або як афіксы (параўнайце: *не прыгожы — непрыгожы, ні што — нішто, нікога ані — анікога, абы ў каго — у абы каго* і г. д.).

Шырокае ўжыванне часціц — абавязковая і неад'емная прыкмета гутарковых стыляў мовы, а разам з гэтым — і мовы мастацкай літаратуры, публіцыстыкі.

*Літ.:* Беларуская граматыка. Ч. І. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985; Кісялёў І. А. Частицы в современных восточнославянских языках. Мн., 1976; Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. *П. П. Шуба.*

## ЧАЧОТ ЯН

Беларускі і польскі паэт, фальклnetwork рыст Ян Чачот нарадзіўся 7 ліпеня 1796 г. ў в. Малюшычы Карэліцкага раёна. У 1815 г. скончыў Навагрудскую дамініканскую школу, дзе пасябраваў з А. Міцкевічам. У 1815—16 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце. Працаваў у Вільні ў бюро па ўпарадкаванні архіваў Радзівілаў. За ўдзел у тайным студэнцкім асветніцкім таварыстве філаматаў у 1823 г. быў зняволены ў Віленскую турму, затым сасланы на Урал. У 1833 г. ён вярнуўся на Беларусь, працаваў чыноўнікам у Лепелі, затым бібліятэкарам у Храптовіча ў Шчорсах, тады ж вывучаў асноўныя гаворкі Беларусі. Памёр 23 жніўня 1847 г.



Як і А. Міцкевіч, Я. Чачот першае мастацкае выхаванне атрымаў на беларускім фальклоры. Ён стварыў шэраг польскамоўных балад, якія грунтаваліся на беларускім фальклоры, многа вершаў на польскай і беларускай мовах.

Я. Чачот запісаў у в. Бортнікі на Навагрудчыне беларускія народныя песні і склаў з іх зборнік (не захаваўся). У 1837—46 гг. ён надрукаваў у Вільні 6 фальклорных зборнікаў, куды ўвайшлі каля 1000 песень у перакладзе на польскую мову і ў арыгінале, а таксама прыказкі і прымаўкі, слоўнік беларускай мовы і ўласныя беларускія вершы. Амаль кожны зборнік адкрываецца прадмовай, дзе Чачот з сімпатыяй гаворыць пра асаблівасці фальклору і мовы беларускага народа. Асабліва цікавыя «Песенькі вясковыя з-над Нёмна і Дзвіны, з дабаўленнем першабытных на славянакрывіцкай мове» (4-ы зборнік, 1844; песні ў ім даюцца паралельна на беларускай і польскай мовах, змешчана 28 беларускіх вершаў Я. Чачота) і «Песенькі вясковыя з-над Нёмна і Дзвіны, некаторыя прымаўкі і ідыёмы на славяна-крывіцкай мове, зназіраннямі, якія зроблены над імі» (6-ы зборнік, 1846; уключае толькі беларускія тэксты і 1 арыгінальны аўтарскі верш).

Сярод пачынальнікаў беларускага адраджэння Чачот вылучаецца тым,

што ён не толькі адважыўся ўвесці беларускую мову ў літаратурны ўжытак, ствараючы на ёй мастацкія творы, але і паклаў пачатак беларускаму мовазнаўству. Ён узняў шэраг навуковых пытанняў і выказаў па некаторых з іх свае меркаванні. У прадмовах да 4-га і 6-га зборнікаў «Песенек...» і ў некалькіх невялікіх артыкулах 6-га зборніка («Зычлівая для этымолагаў заўвага», «Пра падабенства славянскіх моў з санскрытам», «Крывіцкія прымаўкі») Чачот параўнаў спецыфічныя фанетычныя і граматычныя з'явы польскай і рускай моў, паказаўшы валоданне элементамі параўнальнага аналізу.

Беларускую мову ён вызначыў як самастойную, родную суседнім славянскім мовам. Ён называў яе «дыялект крывіцкі», «мова крывіцкая», «мова славяна-крывіцкая» (навуковая тэрміналогія тады яшчэ не ўсталявалася): «Дыялект крывіцкі сярэдні паміж польскім, рускім і ўкраінскім. Украінскі, ці палянскі, па будове сваёй і даўжыні галосных больш падобны да польскага, крывіцкі — да расійскага» (Piosnki wieśniacze... Wilno, 1846. S. VII).

Заклікаючы збіраць беларускі фальклор, стварыць граматыку і слоўнік беларускай мовы, Чачот паспрабаваў і сам стварыць такі слоўнік. У тым жа 6-м зборніку «Песенек...» іх 2: «Слоўнік беларускіх слоў» перакладнога тыпу змяшчае 200 слоў (незразумелыя для польскага чытача, выбраныя з прыведзеных песень, перакладзеныя польскімі эквівалентамі ці апісальна), 2-і, тлумачальнага тыпу — «Некаторыя беларускія ідыёмы» — налічвае каля 250 загалоўных слоў (рэдкіх, не з тэкстаў, а з жывой мовы, часта з прыкладамі і з іншых моў). Гэтым Чачот паклаў пачатак практычнай лексікаграфіі.

Пачаткі беларускай дыялекталогіі закладзены ў аналізе асноўных рыс беларускай мовы, падзеле яе на 2 масівы гаворак — паўднёва-заходні (дыялект наднёманскі) і паўночна-ўсходні (дыялект наддзвінскі). Ускосна Чачот закрануў і пытанне пераемнасці нашай старой і новай літаратурнай мовы. Адзначыўшы, што на беларускай мове «любілі размаўляць паміж сабою старыя паны» (тамсама. S.V), што на ёй «пісалі ў нас калісьці афіцыйныя акты» (тамсама), Чачот сцвярджае, што цяпер «крывіцкае племя, якое налічвае некалькі мільёнаў чалавек, не мае нічога болей, апрача катэхізіса, выдадзенага нядаўна» (тамсама. S. XXXIII). Зыходзячы менавіта з таго, што крывіцкі дыялект «без правіл, непісьмовы», Чачот закранае тэарэтычныя пытанні арфаграфіі. Адзначыўшы, што «той правапіс самы дасканалы, у якім як вымаўляецца, так і пішацца», ён разумеў, што «немагчыма, каб які-небудзь з правапісаў прыйшоў да гэтай дасканаласці» (тамсама. s. XXI). Бо, «як, напрыклад, у крывіцкім дыялекце пісаць *вос*, калі ў наступных склонах вымаўляецца *воза, возу*? або *вёс* (wiózł), калі ёсць *весьці, везу*». Таму ён, па сутнасці, прапанаваў сумясціць фанетычны і этымолага-марфалагічны прынцыпы і ажыццявіў гэта на практыцы ў сваіх беларускіх вершах.

У Я. Чачота назіраем паслядоўную перадачу агульнабеларускіх дзекання-цекання *(narodzić, na świecie, tajuć)*, пераходу *л* і *в* у *ў* *(nawaziu, u całom roku)* і характэрнага для большасці беларускіх гаворак *р* цвёрдага *(harawaci, pry baćku)*. Аканне, як правіла, перадаецца толькі ў пераднаціскных складах: *baranawać, haspadynia* (але *podpierszysie, żelezo*). А ў паслянаціскных аканне не перадаецца: *dobre, hołod, hroszej, możem, wolikow*. Яканне не перадаецца нагогул: *wiesna, ciecieruk*. Зычныя на стыку марфем і слоў захоўваюцца: *biezsilny, biez chleba, darożka*. Паслядоўна перадаецца асіміляцыйнае змякчэнне: *śmiecie, źjaje*. Назіраецца моцная залежнасць мовы Чачота ад яго роднай гаворкі. Гэта і захаванне канцавога *о* ў назоўніках ніякага роду і прыслоўях *(leto, sonco, kiepsko)*, і адсутнасць пратэтычнага *і (rza)*, і адсутнасць падваення зычных *(wiasiela, śmiecie)*. Адпавядае яго гаворцы і ўжыванне канчатка *-э* ў давальным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з суфіксам *-к- (łauce)*, і канчатка *-е* ў вінавальным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду *(kosic, łuhie)*, і кароткіх канчаткаў прыметнікаў *(boska kara, ja biedny)*. У некаторых выпадках Чачот дапускае суіснаванне рыс абодвух дыялектаў, як, напрыклад, канчаткаў *-е* і *-ець* у 3-й асобе цяперашняга часу *(bajeć, niesie)* і канчаткаў *-іце* і *-еце* ў загадным ладзе *(waźmicie, pahledziecie)*. Чачот лічыў дапушчальным ужываць у беларускай мове 2 інфінітывы: на *-ць* і на *-ці* *(brać, zyć* і *hulaci)*. Адчувальным аказаўся ўплыў на мову Чачота польскай мовы. Гэта і паслядоўнае ўжыванне зваротнай часціцы *ce (zrabiu sie)*, і ўжыванне канчатка *-мы* замест *-ма* ў загадным ладзе дзеясловаў *(harujmy, kińmy)*, і форм *pij, zbij* замест *пі, збі*, і ўжыванне суфікса *-эк* замест *-ак* у родным склоне назоўнікаў *(dzietek, kwietek)*. Польскі ўплыў адбіўся і на сінтаксісе *(karou so dźwie par, ty świeta haspadarom, u was na heto ja zasłużyła, budziem zyto żali)* і на лексіцы вершаў паэта *(anioły, waszmość, gural, zausze, kaleja)*.

Хоць Чачот у тагачасных умовах не бачыў перспектывы для развіцця беларускай мовы, ён палымяна заклікаў збіраць беларускі фальклор і «ўзяцца за складанне граматыкі і слоўніка крывіцкага дыялекту... бо хоць бы захацелі калі-небудзь вучыць сялян іншаму дыялекту, яны не зразумеюць яго дастаткова, не маючы ў сваім уласным слоў (тэрмінаў), перакладзеных (растлумачаных) з гэтага іншага».

*Тв.:* Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, z dołączeniem pierwotwornych w mowie sławiano-krewickiéj. Wilno, 1844; Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy, w mowie sławiano-krewickiej, s postrzeżeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1846; Навагрудскі замак: Тв./Склад., пер. польскамоўных тв., прадм. і камент. К. Цвіркі. Мн., 1989.

*Літ.:* Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3. Очерки словесности белорусского племени. [Кн.] 3. Художественная литература на народном языке. Пг., 1922; Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968; Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. Мн., 1966; Яго ж. Падарожжа ў XIX ст.: З гісторыі бел. літ. мовы, мастацтва і культуры: Навук.-папул. нарысы. Мн., 1969; Пачынальнікі: З гіст.-літ. матэрыялаў XIX ст. / Склад. Г. В. Кісялёў. Мн., 1977. *І. І. Крамко.*

## ЧОРНЫ КУЗЬМА



Кузьма Чорны (Мікалай Карлавіч Раманоўскі) — адзін з буйнейшых беларускіх празаікаў, прадстаўнік псіхалагічнага кірунку беларускай прозы. Нарадзіўся 11(24) чэрвеня 1900 г. ў былым маёнтку Боркі Капыльскага раёна. Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1916—19), скончыў 2 курсы літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта БДУ (1925). У 1920—22 гг. працаваў у Цімкаўскім рэўкоме, Слуцкім ваенкамаце. Настаўнічаў у Цімкаўскай сямігадовай школе. У 1924—28 гг. супрацоўнік газеты «Беларуская вёска». У 1926—31 гг. старшыня літаратурна-мастацкага аб'яднання «Узвышша», у 1932—37 гг. галоўны літаратурны кансультант кабінета маладога аўтара пры СП БССР. У час Айчыннай вайны супрацоўнічаў у часопісах «Раздавім фашысцкую гадзіну» і «Бе-

ларусь». Памёр 22 лістапада 1944 г.

Друкавацца пачаў у 1921 г. Выступаў як празаік, драматург і публіцыст. Апавяданні ўвайшлі ў зборнікі «Срэбра жыцця», «Па дарозе», «Пачуцці», «Хвоі гавораць», «Вераснёвыя ночы». Раманны цыкл складаюць творы «Сястра», «Зямля», «Бацькаўшчына», «Ідзі, ідзі», «Трэцяе пакаленне», «Лявон Бушмар», «Трыццаць год», «Пошукі будучыні», «Вялікі дзень» і інш.

Самабытны, непаўторны мастак К. Чорны ўмеў глыбока пранікаць у моўную стыхію, узнаўляць жывыя і па-мастацку выразныя гутарковыя інтанацыі, захоўваць сінтаксічныя традыцыі і лексічныя асаблівасці мовы беларускага селяніна. Прычым гэта не простае пераймание, а арыгінальная пісьменніцкая манера, заснаваная на ўменні ўдасканаліць і таленавіта перапрацаваць, пазначыць народную гутарковую мову адзнакай свайго таленту.

Мова твораў К. Чорнага пераконвае ў неабмежаваных магчымасцях беларускага словаўтварэння. Кожнае новае слова, арганічна ўведзенае ім у мастацкую тканіну твора, адпавядае граматычнаму ладу беларускай мовы, яскрава раскрывае ўменне пісьменніка дэталізаваць паняцце, падкрэсліваць яго семантычныя нюансы: *патомленыя коні, немагушчая жывёліна, выдумацца, прыбянтэжыць, завінавацiць, раздумацца, спабачыцца, выперадзіць, знудзецца, уведаць, прысяваць, збаяцца.* Натуральнасць марфалагічнай будовы і ёмістасць значэння гэтых слоў робяць іх сапраўднай мастацкай знаходкай празаіка і ў той жа час паказваюць на жывую сувязь з народнымі моўнымі вытокамі.

Лексічнае багацце народнай мовы К. Чорны здолеў зрабіць здабыткам літаратурнай практыкі. Каларытнасць моўных фарбаў яго твораў узмацняюць такія сакавітыя словы, як *апускліва, апанурацъ, пятрэць, заманцца, зачэпацца, надалужыць, запаможацца, людзець, саймікавацца, схлупіцца, унаравіць.*

Магчымасці літаратурна-мастацкага выражэння залежаць ад лексіка-фразеалагічнага адбору, які ў значнай ступені вызначае агульную стылістычную танальнасць мовы К. Чорнага. Часам для мастака важна не столькі найменне, колькі настраёвасць, экспрэсія. Нават ва ўстойлівых выразах нейтральныя кампаненты ён замяняе на стылістычна афарбаваныя, дасягаючы выразнай экспрэсіўнасці: замест *адкрыць душу — вывернуць душу, не зводзіць вачэй — уесціся вачыма, як вокам скінуць — як вокам сяганyць, носа не паказваў — носа не патыкаў, сказаў праўду ў вочы — высмаліў праўду ў вочы.* Ён шырока ўжывае, часам свядома падкрэслена, стылістычна зніжаныя размоўныя словы: *грашавіты, нядошлы, змікіціць, дапасці, самапасам, плішчыцца, ваяка, ліпець, маракаваць, не шманаць* і інш. Уключаючы іх у мову персанажаў, К. Чорны дасягаў яе тыпізацыі, сацыяльнай і псіхалагічнай выразнасці.

Асаблівую ўвагу надаваў пісьменнік дзеяслову. Тут можна ўбачыць нават пэўную стылістычную яго прыхільнасць. Традыцыйна дзеясловы ў яго творах ствараюць малюнак руху, дзеяння: *Усё тут варушылася, крычала, спрачалася, ашуквала адно аднаго, хітрыла адно перад адным, таптала пад ногі ўсё чужое* («Максімка»). К. Чорны ж выкарыстоўваў дзеясловы і для абазначэння прыкмеcы колеру, выражанай праз дзеянне, чым узмацнялася багацце пейзажных фарбаў: *снег жаўцеў, рунь сінела, ружавеў захад, дарога чарнела, бялела неба.*

На першы погляд здаецца, што мова К. Чорнага зусім простая. На самай справе яе будова вельмі адмысловая. Мастацкую выразнасць ёй надае выкарыстанне вобразных параўнанняў. У К. Чорнага параўнанні, як правіла, канкрэтныя, звязаныя з прадметамі і паняццямі навакольнага жыцця: *жыць — як палын жаваць; конь як печ; сыпаў словамі, як зернем з меха; травіны, як лейцы даўгія; слова плыве, як жыта з малатарні.* Асацыятыўныя паралелі ў такіх параўнаннях узнікаюць не паводле знешняга падабенства, а вядуць да глыбінь мыслення, сведчаць пра непасрэдную сувязь сэнсавай асновы вобраза з працоўным жыццём народа. Гэта вобразныя ўяўленні тых людзей, пра якіх расказвае пісьменнік. Часта вобраз, з якім параўноўваецца прадмет, разгортваецца ў цэлую карціну: *Як тонка гудзе над гарачымі загонамі авадзень, так цягнецца песня* («Новыя людзі»); *Жыццё перамолвалася, як зерне пад каменем, і самі людзі, пускаючы беспарапынку ў ход гэты камень, маloліся пад ім* («Ідзі, ідзі»).

Проза К. Чорнага сведчыць пра вялікае майстэрства, якім валодаў пісьменнік, выкарыстоўваючы фразеалагічнае багацце беларускай мовы. Фразеалагічныя выразы ён скарыстоўвае вельмі ашчадна, і тым большую выяўленчую ролю яны адыгрываюць. У мове персанажаў і ў аўтарскім апавяданні яны спрыяюць дакладнасці характарыстык, трапнасці рэалістычных замалёвак, падаюць з'явы ацэначна і яскрава: *на тры сажні ў зямлю бачыць; не глядзіць ні вока, ні бока; і духу не ўказаў; кату па пяту; як старой бабе сесці; убіраліся ў сілу; на ўсе застаўкі; з мазаля жыў; біўся як рыба аб лёд.*

Значна ўзбагачаюць аўтарскую мову, надаюць ёй выразнасць і характэрнасць народныя прыказкі і прымаўкі: *Хто дужшы, той і пруцшы; Астрогу і торбы не заракайся; Правая рука не ведае, што робіць левая; Што галава, то і розум; Круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся.*

Сціcласць, лаканічнасць, глыбіня думкі набліжаюць выказванні К. Чорнага да афарызмаў. Духоўным здабыткам народа сталі такія яго трапныя выразы, як: *Дзе прайшло маленства, там пачынаецца Радзіма* («У імя будучыні»); *І ў няшчасці і ў радасці без дружбы чалавеку нельга быць* («Насцечка»); *Жаночае сэрца робіцца вялікае, як свет, калі яно чуе боль знявечанага дзіцяці* («Пошукі будучыні»).

Праз усю творчасць К. Чорнага праходзяць вобразы-кантрасты: *жыццё — нябыт, смутак — радасць, ціішыня — бура, высакароднасць — нізасць.* Яны могуць выражаць проціпастаўленне асноўных маральных каштоўнасцей, пакладзенае ў ідэйную задуму твора, могуць ахопліваць і мікракантэкст, акцэнтуючы ўвагу на найбольш важных процілегласцях. Разгорнутымі антытэзамі ў пісьменніка часта выступаюць цэлыя сказы: *Шумеў лес, і маўчала поле* («Лявон Бушмар»); *Сумавалі платы. Весяліўся ў ружовасці захад* («Зямля»). Фігура аб'яднання процілеглых паняццяў выкарыстоўваецца для абмалёўкі характараў, для ўвасаблення супярэчнасці ў адзінстве, спрыяе раскрыццю дыялектыкі чалавечай душы: *Яна адчувалася імі абодвума — прывабная, вясёлая, сумная. Далёкая і блізкая. Усё было ў ёй, і яна была ва ўсім* («Зямля»); *Так дайшоў ён да моста і стаў на ім. Кіпеў і заціхаў, спакайнеў і ўзрываўся* («Сястра»). Разгорнуты ланцуг кантрастаў значна ўзмацняе экспрэсію сказа. Філасофскі пачатак адчуваецца і ў такой стылістычнай фігуры, заснаванай на з'яве антаніміі, як аксюмаран: *думаць бяздум'ем, спакойна ўстрывожаныя людзі, спяшаўся павольна, шумела маўчаннем лісце, холад агню, нясмешна ўсміхаецца, трывожны спакой* і інш.

Аналітычныя якасці апавядальнай манеры К. Чорнага праяўляюцца і ў сінтаксісе. Будова фразы арганічна звязана з ладам мастацкага мыслення пісьменніка. Разгорнутыя сінтаксічныя структуры выяўляюць складаную сістэму ўзаемазвязаных думак і вобразаў. Мнагаслоўныя рытмічныя перыяды з як бы свядома запаволенай апавядальнай інтанацыяй спрыяюць псіхалагічна дакладным эмацыянальна-асацыятыўным апісанням карцін прыроды і адчуванняў чалавека: *Увосень скрозь пахлі смалой новыя сцены, з лесу цягнула грыбной духмянасцю, дзятлы дзяўблі кару сухіх дрэў, збіраліся ў вырай буслы, на высокім сцябле ўзнімаўся к стомленаму за лета сонцу жоўты тур і запозненая кветка малачайніку, жалуды даспявалі на дубах, чалавечую цішыню ўраўнаважвала цішыня прыроды, і — божа мой, як тут добра жыць,— думаў часта Марынін бацька* («Вялікі дзень»).

Сіла і псіхалагічная пераканаўчасць чорнаўскіх вобразаў — яркіх, жыццёва-тыповых — незвычайная.

У вялікай ступені яна абумоўлена майстэрствам слова. Мова дзейных асоб пад пяром мастака слова набывае непаўторную сацыяльную і індывідуальную характарнасць. Разумеючы неабходнасць вывучэння ўнутранай вобразнасці слова і яго стылістычнай актыўнасці ў кантэксце, К. Чорны неаднаразова звяртаўся да праблемы моўнага майстэрства, культуры пісьменніцкай творчасці. Клопатам пра багацце мовы, пра найбольш дакладную форму ўвасаблення думкі прасякнуты яго артыкулы «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры», «Замест паштовае скрынкі», «Маладыя празаікі», «Заўвага да перакладаў мастацкае літаратуры». «Літаратурная мова,— гаварыў пісьменнік,— павінна быць моваю чыстаю, беларускаю. Карэнні яе — у мове народнай. Літаратары павінны навучыцца моўна думаць па-беларуску. Яны павінны абудзіць у сабе або пастарацца ўспрыняць (калі не давялося мець яе змалку) беларускую моўную стыхію» (Чорны К. Зб. тв. Мн., 1975. Т. 8. С. 85). Вельмі патрабавальны быў К. Чорны і да сябе. Настойлівыя пошукі слова, пра якія мы даведваемся з яго дзённіка і чарнавікоў твораў, паказваюць, як нараджалася, гаворачы словамі самога пісьменніка, «хараство і багацце арыгінальных формаў» — індывідуальная прыкмета яго пісьма.

У «Публіцыстычных нататках» К. Чорны грунтоўна асэнсаваў праблему культуры мовы. Не страцілі і сёння сваёй актуальнасці яго думкі пра неабходнасць быць чулым да мовы, ставіцца да яе творча, клапаціцца пра яе чысціню і дакладнасць. Барацьбу з моўнай непісьменнасцю К. Чорны лічыў «найважнейшаю дзялянкай нашае культуры» (тамсама. С. 109). Насцярожаны неахайнасцю маладых літаратараў у працы са словам, К. Чорны з пачуццём вялікай заклапочанасці пісаў пра штучнасць, ненатуральнасць іх мовы, пра недахоп літаратурнай культуры, пра моўную канцылярщчыну, няўменне ўбачыць слова ў неўласцівым яму ўжытку. Аб'ектыўную і сапраўды навуковую ацэнку К. Чорнага атрымалі неўласцівыя беларускай мове формы дзеепрыметнікаў тыпу *рунеючыя палі, лятаючыя птушкі*.

Трапныя мовазнаўчыя назіранні — вынік глыбокіх разваг і аналітычнай працы — паказваюць К. Чорнага як змагара за прыгажосць і росквіт роднай мовы. Моўныя здабыткі пісьменніка — і сёння каштоўная спадчына для маладых мастакоў.

*Літ.:* Ватацы Н. Б. Кузьма Чорны. 1900—1944: Бібліягр. давед. Мн., 1954; Адамовіч А. М. Беларускі раман: Станаўленне жанру. Мн., 1961; Ягож. Маштабнасць прозы: Урокі творчасці Кузьмы Чорнага. Мн., 1972; Луферaў М. П. Проза Кузьмы Чорнага. Мн., 1961; Булацкі Р. В., Сачанка І. І. Кузьма Чорны — публіцыст. Мн., 1972; Казека Я. Кузьма Чорны: Старонкі творчасці. Мн., 1980. *І. Р. Шкраба.*

## ЧУЖАСЛОЎЕ

Выказванне можа ўключаць у сябе элементы «чужога» маўлення, якое належыць не аўтару, а іншай асобе. Такія ўключэнні называюцца чужаслоўем. Гэты тэрмін вядзе сваё паходжанне ад першых беларускіх граматык, яму адпавядае паралельная тоесная назва «чужая мова». У паняцце «чужаслоўе» можа ўкладвацца розны змест у залежнасці ад характару яго чужароднасці, неўласцівасці асобе, якая гаворыць.

Вызначальныя прыкметы чужаслоўя — прыналежнасць да іншай, чым само выказванне, мовы. Генетычная неаднароднасць аўтарскага выкладу і выкладу другой асобы выяўляе выразны кантраст не толькі ў моўнай арганізацыі выказвання, але і ў сацыяльна-псіхалагічным партрэце людзей, што вельмі істотна пры стварэнні мастацкага вобраза. Словы, спалучэнні слоў і мікракантэксты, якія перадаюцца фанетычнымі або графічнымі сродкамі мовы-крыніцы, успрымаюцца як каларытныя інкрустацыі пры апісанні нацыянальных характараў, звычаяў, перадачы індывідуальна-маўленчай манеры персанажа.

Беларуская мастацкая літаратура захавала класічную традыцыю называць творы і іх структурныя часткі лацінскімі выслоўямі: Dies Irae, Errata, Tertium non datur (М. Танк), Homo sapiens (Я. Сіпакоў), «Memento mori» (Я. Брыль), Miserecordia, Requiem (У. Караткевіч). Такія вядомыя выразы аб'ядноўвае тое, што ўсе яны маюць глыбокі падтэкст і дапамагаюць чытачу ўвайсці ў свет аўтарскіх ідэй і вобразаў.

Іншамоўныя словы, сказы і звязныя тэксты набываюць значэнне мастацкага прыёму і выкарыстоўваюцца з выяўленчай мэтай. Маналогі і асобныя рэплікі літаратурнага героя, якія гучаць на роднай яму мове, надаюць цэласнасць яго моўнаму партрэту, выклікаюць у чытача адпаведныя эмоцыі. Для Я. Брыля нямецкамоўныя ўключэнні ў дыялогі рамана «Птушкі і гнёзды» — адзін са спосабаў выяўлення грубасці, адсутнасці гуманных пачуццяў і глыбіні мыслення недалёкага нямецкага вахмана. Італьянскія словы, якія мімаволі вырываюцца з вуснаў гераіні «Альпійскай балады» В. Быкава Джуліі, не толькі надаюць яе вобразу жывыя рысы, але і ў пэўнай ступені фарміруюць пачуццё шчырай сімпатыі і глыбокага спачування яе трагічнаму лёсу.

Чужаслоўе ўводзіцца 3 асноўнымі спосабамі, якія адрозніваюцца ступенню блізкасці да формы чужога выказвання, лексіка-сінтаксічнымі і выяўленчымі асаблівасцямі.

Найбольш выразная мяжа паміж аўтарскім маўленнем і маўленнем іншай асобы ў канструкцыях з простай мовай. Гэты спосаб перадачы чужаслоўя дакладна адлюстроўвае характэрнае словаўжыванне, граматычныя асаблівасці і жывую інтанацыю персанажа і ў гэтым сэнсе набліжаецца да рэплікі дыялога. Аднак у адрозненне ад рэплікі чужаслоўе ўключае аўтарскія словы, важныя з пункту погляду ацэнкі маўленчай манеры персанажа або каментарыя яго паводзін у момант гутаркі: *Ззаду, няспрытна валюхаючы, да камбата падпоўз ветэрынар і, папраўляючы на галаве шапку, прасіпеў сарваным голасам: «Што здарылася, камбат?»* (В. Быкаў); *«А вы, дзеткі, яшчэ першы раз прыйшлі да школкі?» — мякка прамовіў настаўнік да малых* (Я. Колас).

У простай мове прысутнічае той арыгінальны моўны матэрыял, які не мог бы знайсці месца ў аўтарскім маўленні: прастамоўна-зніжаная і дыялектная лексіка, негатыўная ацэначнасць, выразная экспрэсія. Аўтар можа агульнадаступнымі сродкамі перадаць і вымаўленне слоў, ствараючы магчымасць не толькі зрокава, але і наслых успрымаць слова: *«А-а... Вунь што-о»,— расчаравана троху, але ўсё ж з дзіваваннем працягнуў студэнт* (М. Гарэцкі). Простая мова выступае і як сродак свядомага адлюстравання маўленчай няправільнасці: *«Толя сказаў, што як прыедзе наступны раз, дык абавязкова зробіць і ў нас шпіктаклі»,— уставіла малодшая Ніна* (А. Васілевіч).

Ускосная мова — гэта выказванне якой-небудзь асобы, граматычна прыстасаванае да мовы аўтара. Простая мова ў форме апавядальнага, пытальнага або пабуджальнага сказаў у канструкцыях з ускоснай мовай адпавядае даданай частцы складаназалежнага сказа і ўводзіцца адпаведнымі злучнікамі *(што, каб, калі* і інш.) або звязваецца бяззлучнікавай сувяззю: *Рыгор перайшоў на другую тэму, пачаўшы распытваць маці, як яна жыла ўвесь час, калі яго не было ў доме, што перажыла, як яе маецца здароўе* (Ц. Гартны); *У садзе, куды яны пайшлі, Толя сказаў яму, што тата вельмі шкадуе маму, бо яна ўжо два дні не ўстае* (Я. Брыль). Агульны сэнс чужога выказвання захоўваецца, але ні характаралагічныя яго рысы, ні асаблівасці індывідуальнай маўленчай манеры, ні эмацыянальная пазіцыя асобы не перадаюцца. Такія моўныя сродкі, як выклічнікі, звароткі, мадальныя словы, часціцы, апускаюцца, а асабовыя формы дзеяслова арыентаваны на таго, хто ўзнаўляе чужую мову. Эмацыянальна-стылявы разрыў паміж простай мовай і мовай аўтара становіцца малапрыкметным, таму канструкцыі з ускоснай мовай дарэчы ў тых творах, дзе экспрэсіўныя элементы маюць жанравае абмежаванне (навуковыя выданні, мова прэсы). Але

гэта не азначае, што ўскосная мова ўвогуле пазбаўлена выразнасці. Да таго ж яна здольная разнастаіць сінтаксічны малюнак апавядання і таму шырока ўключаецца ў мастацкія кантэксты.

Няўласна-простая мова — своеасаблівы спосаб сінтаксічнай арганізацыі чужога выказвання ў межах аўтарскага выкладу. Яна выступае як важны сродак абмалёўкі сацыяльнага і індывідуальнага аблічча чалавека праз аб'ектываваны пераказ апавядальніка, афарбаваны ўспрыманнем, пазначаны інтанацыйна-сінтаксічнымі і стылістычнымі асаблівасцямі асобы, якая гаворыць: *Памаленьку адхінуў Трахім коўдру. Ціхенька, на дыбачках, прыслухоўваючыся, каб ніхто не найшоў, падышоў к насценнаму шкапчыку паглядзець, ці не можна будзе дастаць чаго. Ды дудкі. Замкнёна, і нідзе такоўскай шчыліны не відаць, каб праз яе лусту хлеба выцягнуць. Нічога не зробіш, ключа не мейшы* (Л. Калюга).

Сінтаксічная спецыфіка ні простай, ні ўскоснай мовы для няўласна-простай мовы не характэрная, яна незаўважна зліваецца з аўтарскім апавяданнем. Аўтар ад свайго імя перадае разважанні героя, захоўваючы яго асабістае асэнсаванне і ацэнку таго, пра што гаворыць. Мастацкае ўражанне верагоднасці чужога маўлення ствараецца такімі характэрнымі элементамі, як непаўната сказаў, асацыятыўныя, а не лагічныя сувязі слоў, гутарковая лексіка, павышаная эмацыянальнасць.

Магчымасць выбару пэўнага сінтаксічнага спосабу перадачы чужаслоўя дазваляе дасягнуць належнай суадпаведнасці яго пэўнаму тыпу маўлення. Для мастацкага ж маўлення змена або вар'іраванне гэтых спосабаў набывае значэнне як элемент формы літаратурнага твора.

*Літ.:* Цікоцкі М. Я. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1976; Яўневіч М. С., Сцяцко П. У. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы. 2 выд. Мн., 1980; Бурак Л. І. Сучасная беларуская мова: Сінтаксіс. Пунктуацыя. Мн., 1987.

*І. Р. Шкраба.*

## ЧЫГРЫНАЎ ІВАН ГАЎРЫЛАВІЧ

Народны пісьменнік Беларусі (1994) І. Г. Чыгрынаў нарадзіўся 21 снежня 1934 г. ў в. Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта (1957). Працаваў у выдавецтве АН БССР (1957—62), у рэдакцыі часопіса «Полымя» (1962—75). У 1975 г. быў абраны намеснікам старшыні праўлення СП Беларусі, у 1976—86 сакратар праўлення. У 1986 г. І. Чыгрынаў узначаліў праўленне Беларускага фонду культуры, а са стварэннем



часопіса «Спадчына» (1989) адначасова і рэдакцыю гэтага выдання.

Друкуецца з 1961 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Птушкі ляцяць на волю» (1965), «Самы шчаслівы чалавек» (1967), «Ішоў на вайну чалавек» (1973), раманаў «Плач перапёлкі» (1970), «Апраўданне крыві» (1976), «Свае і чужынцы» (1983), «Вяртанне да віны» (1992). Драмы і камедыі пісьменніка, а таксама п'есы, напісаныя паводле яго раманаў і апавяданняў, склалі змест кнігі «Звон — не малітва» (1993). Яму належыць шэраг літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў, сабраных у кнігах «Новае ў жыцці, новае ў літаратуры» (1983), «Паміж сонцам і месяцам» (1994).

Творчасць І. Чыгрынава — значная старонка ў сучаснай беларускай літаратуры. Яго раманы, апавяданні, драмы вылучаюцца глыбокім пранікненнем ва ўнутраны свет чалавека, тэматычнай разнастайнасцю, значнасцю пастаўленых праблем, моўным майстэрствам. І. Чыгрынаў піша няспешна і грунтоўна, заглыбляючыся ў паўсядзённасць жыцця, не прымаючы эфектныя літаратурныя хады і формы. Эпічнасць апавядальнай плыні ствараецца як развіццём сюжэту, так і пабудовай сказа. У апісаннях аўтар рэдка ўжывае простыя неразвітыя сказы з іх хуткай зменай рытму, абрывістасцю. Складаная рытміка-сінтаксічная пабудова сказа выступае стылеўтваральным элементам мовы яго апавяданняў і раманаў.

*Уранні прыйшлі нашы — спачатку па зацішанскім бальшаку прагрукаталі, ляскаючы жалезам, танкі, пасля, можа, праз пайгадзіны, з-за пагорка паказалася пяхота. Калоны пехацінцаў павольна спускаліся ў нізіну, што перад вёскай, і адтуль, расцякаючыся, як ручаіны вясной, па лясных і палявых дарогах накіроўваліся далей, да Бесядзі. У вёсцы тым часам дагаралі хаты.* Ва ўрыўку з апавядання «Бульба» першы сказ з'яўляецца складаным бяззлучнікавым, блізкім паводле сэнсу і будовы да складаназалежнага, у ім другая частка паясняе першую. Другі сказ просты, але ўскладнены прысутнасцю аднародных членаў (выказнікі: *спускаліся, накіроўваліся*; азначэнні: *лясных, палявых*; акалічнасці месца: *у нізіну, адтуль, далей, да Бесядзі*), дзеепрыслоўя: *расцякаючыся*; адасобленых азначэнняў: *што перад вёскай, як ручаіны вясной.* Апошні сказ — просты па будове. Побач з двума галоўнымі членамі *(хаты дагаралі)* у ім прысутнічаюць акалічнасці месца *(у вёсцы)* і часу *(тым часам).* Аўтар выкарыстоўвае ў дадзеным выпадку нейтральную лексіку: *бальшак, танкі, пяхота, калоны, вёска, дарогі, хаты, накіроўваліся, паказаліся* і г. д. Вобразнасць у гэтым урыўку ствараецца праз кантрастнасць узноўленых малюнкаў. Паказваецца радасць вызвалення, а побач з гэтым — жахлівыя рэаліі вайны: гарыць чалавечае жытло. Інтанацыйны лад, зададзены першымі двума сказамі, быццам парушаецца, увага засяроджваецца на новым вобразе. Стылістычная афарбоўка апошняга сказа мае драматычны змест, раскрыццю якога дапамагае таксама будова гэтай сінтаксічнай адзінкі.

І. Чыгрынаў — прыхільнік дакладна-рэалістычнага паказу жыцця, аднак ён досыць шырока выкарыстоўвае падтэкст і сімвалічную шматзначнасць мастацкіх вобразаў. Такую шматзначнасць, напрыклад, набывае ў рамане «Апраўданне крыві» параўнанне нямецкай калоны з вужакай. У пакінутую адступіўшай арміяй беларускую вёску «новае» жыццё сапраўды нібыта «ўпаўзала», згадваючы пра сябе напачатку ціха і малапрыкметна: *выйшлі са схованак дэзерціры, аб'явіўся «свой» паліцэйскі...* Сімвалічна шматзначнымі ў творах І. Чыгрынава з'яўляюцца вобразы дзічкі, плывуна, крыніцы, ласёў, ваўкоў, перапёлкі і інш. Вобразную сімволіку пісьменнік выкарыстоўвае ў назвах апавяданняў, раманаў, п'ес: «Залатая рука», «Плач перапёлкі», «Чалавек з мядзведжым тварам», «Ігракі» і г. д. Вобразы-сімвалы, якія сустракаюцца ў творах І. Чыгрынава, маюць выразны фальклорны пачатак.

І. Чыгрынаў вялікую ўвагу аддае прадметнаму свету, які спадарожнічае героям у іх штодзённым жыцці. У апавяданнях і раманах празаіка сустракаюцца шматлікія апісанні хаты, пакоя, двара, гаспадарчых будынкаў, рэчаў хатняга ўжытку і інш. Аналагічная з'ява назіраецца пры паказе расліннага і жывёльнага свету, які прысутнічае ў творах вельмі шырока. Адчуваючы недастатковасць асабістага ведання беларускай флоры і фауны, І. Чыгрынаў склаў спецыяльны траўнік. У выніку такой мэтанакіраванай працы раслінны свет у тво-

рах пісьменніка паўстаў у сваёй адметнасці, непаўторнасці і канкрэтнасці. *З кожным крокам рой усё больш мялеў, за яго дно пачынала чапляцца шыпшына, тады раскідзісты, як запрэжаны ў што бружмель, і нарэшце, здалёку кідайся ў вочы ... канапляны пасконнік* («Плач перапёлкі»). Пісьменнік не толькі імкнецца назваць расліну, але з дапамогай эпітэта *(раскідзісты)*, параўнання *(як запрэжаны ў што)*, метафар *(пачынала чапляцца, кідайся ў вочы)* паказаць яе. Часам канкрэтыкі вымагае сама падрабязная дэталізацыя ў апісанні карцін жыцця. *На падлозе, якраз пасярэдзіне, валяюцца гумавыя боты. На акне, што бліжэй да парога, ляжаць гуркі-насеннікі... На жэрдачцы, прымацаванай пад столлю да бруссяў, вісяць пасохлыя вяслы травы,— як зайсёды піжмы, падбелу, пясчанага кмену* («Ці бываюць у выраі ластаўкі?»). У дадзеным выпадку назоўнікі *піжма, падбел, кмен* побач з іншымі — *гуркі-насеннікі, боты, акно, парог* і інш. дапамагаюць стварыць рэалістычны вобраз-карціну сялянскай хаты.

Апавяданні І. Чыгрынава тэматычна разнастайныя. Таму ў іх не кідаецца ў вочы прывязанасць герояў да пэўнага рэгіёна. У раманах жа падзеі набылі большую канкрэтызацыю ў часе (паказаны першапачатковы перыяд Вялікай Айчыннай вайны) і суаднесены з пэўнай тэрыторыяй Беларусі — паўднёвым усходам Магілёўшчыны. Канкрэтызацыя часу і месца дзеяння абумовіла некаторыя моўныя асаблівасці твораў пісьменніка. Так, напрыклад, шырока ўжывае І. Чыгрынаў словы-тапонімы. Назвамі населеных пунктаў, рэк, рачулак, мясцін стракацяць многія старонкі яго раманаў: *Стругаўская Буда, Прапойск, Крычаў, Верамейкі, Белая Гліна, Мамонаўка, Кулігаеўка, Крутагор'е, Карачоў, Хатынічы, Гутка, Латока, Сож, Бесядзь, Іпуць.* Ёсць сярод гэтых геаграфічных назваў дакладныя, а ёсць і змененыя, прыдуманыя аўтарам, як, напрыклад, вёска Верамейкі. Калі далёкія шляхі многіх герояў І. Чыгрынава пазначаны агульнавядомымі назвамі рэк, мястэчкаў, вёсак, то ў Верамейках і вакол іх існуе свая, мясцовая «геаграфія», складзеная тутэйшымі жыхарамі: *Курганне, Ключ, Паддубішча, гуцянская дарога* і інш.

У творах пісьменніка (асабліва ў раманах) ва ўсім багацці выявіўся дыялект Магілёўшчыны, які пасля М. Гарэцкага слаба засвойваўся мастацкай літаратурай. Аўтар шырока ўводзіць лексічныя дыялектызмы, якія з'яўляюцца мясцовай назвай агульнавядомых прадметаў, паняццяў, з'яў: *неперасчуканы* 'бесперапынны', *дзогаюць* 'тупаюць' (пра танцораў), *воміга* 'воцат', *ляскоўкі* 'яблыкі-дзічкі', *зелянкі* 'няспелыя плады', *глёкаючы* (піць) 'гучна глытаючы', *фортка* 'вароты', *чалеснік* 'месца ў печы', *клявая* 'хісткая' і г. д. Досыць часта сустракаюцца ў творах марфалагічныя і сінтаксічныя дыялектызмы *(папярод часу, сляпуючы, сыспаду, атрымаў лупцой, не будуць маць да цябе)*, радзей — словаўтваральныя *(паадступаюць, панаступаюць, угадлівы)*, а таксама семантычныя *(цаляў у снег, край хацелася)*. На раннім этапе творчасці, у апавяданнях, І. Чыгрынаў не ўжываў фанетычныя дыялектызмы. Яны з'явіліся ў раманах і тых п'есах, дзе падзеі адбываюцца на Магілёўшчыне («Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы»): *хвутра, цяпера, тута, бытта, усягды, вордзен, бялет, палуча, саўсім* і інш. Дыялектызмы ў творах І. Чыгрынава ствараюць мясцовы каларыт, выступаюць адным з важных сродкаў індывідуалізацыі мовы герояў. Так, з дыялога дзеючых асоб п'есы «Свае і чужыя» становіцца ў многім зразумелай іх сацыяльная прыналежнасць. Нарчук, былы старшыня калгаса, чалавек адукаваны, таму яго мова літаратурна ўнармаваная, правільная; старыя ж вяскоўцы гавораць так, як прынята ў іх мясцовасці: *дак, ета, лігулярныя часці* і інш.

Характэрныя для паўднёва-заходніх гаворак Беларусі дыялектныя словы і выразы ёсць не толькі ў мове герояў, але, часам, і ў аўтарскай: *Зазыба вярнуўся ў вёску ахлялы* (нямоглы, хворы) — *напіўшыся па дарозе ў Верамейкі халоднай вады, ён падхапіў гарлянку. І калі да яго прыйшоў старшыня калгаса, гаспадар ляжаў на шырокім драйляным ложку. Выгляд у яго быў як зачаўраны* (непрытомны) («Плач перапёлкі»). Уводзячы дыялектызмы ў твор, І. Чыгрынаў рэдка дае ім тлумачэнне ці паралельна называе агульнаўжывальную форму, як, напрыклад, *бабіны* — адведкі парадзіхі. Сэнс слова становіцца зразумелым з кантэксту. *Тут жа ў сорак трэцім усю восень баі былі, пасля і ў сорак чацвёртым па самае лета не ўшчукала* (апавяд. «Жыве ў крайняй хаце ўдава»). Пастаўлены ў адзін рад са словазлучэннем *баі былі*, суаднесены з рэаліямі апошніх гадоў вайны, калі ішло вызваленне Беларусі, дыялектызм *ушчукала* наўрад ці патрабуе нейкіх тлумачэнняў і ўдакладненняў.

Пісьменнік ахвотна чэрпае са скарбніцы народнага вопыту і мудрасці, уводзячы ў моўную тканіну твораў прыказкі, прымаўкі, фразеалагічныя звароты. З іх дапамогай аўтар дасягае пераканаўчасці сцвярджэння, вобразнасці і змястоўнасці выказвання. Напрыклад, прыказкай характарызуе адзін з герояў сітуацыю, у якую трапіў Дзяніс Зазыба (яго выгароджвае перад нямецкім камендантам верамейкаўскі паліцэйскі): *Нездарма кажуць — раз не здолеў адсекчы руку свайму ліхадзею, то мусіш цалаваць цяпер яе* («Апраўданне крыві»). Вобразна, дасціпна, трапна ацэньваецца сутнасць «новага парадку», які пачынае ўсталёўвацца немцамі на акупіраванай тэрыторыі. Пры гэтым вядомую прымаўку *кось-кось ды ў аглоблі* І. Чыгрынаў крыху змяніў: *Спярша кось-кось, а тады лазінай па баку, лазінай!..* Увогуле аўтарскае абнаўленне ўстойлівых словазлучэнняў практыкуецца ў творах І. Чыгрынава даволі часта. Пісьменнік можа замяняць ці змяняць асобныя словы (***ваўком*** *падшыты* «чортам падшыты», *праўду* ***цярэбіць*** *у вочы* «праўду рэжа ў вочы»), ускладняць вобраз словамі свабоднага ўжывання (*вочы* ***не дужа*** *мазоліць)*, калі-нікалі нават змяняць сэнс *(прыйдзе каза да воза, а мы ей пужкі)*. Абсалютную большасць у І. Чыгрынава складаюць агульнавядомыя прыказкі і прымаўкі: *у голад людзі намруцца, а ў вайну налгуцца; ранні зайчык зайсёды цярэбіць зубкі, а позні вочкі прадзірае; хто з роднай зямлі ўцякае, той ворага не перамагае; шукай ветру ў полі; чорт цягнуў за язык; бог не прадасць, свіння не з'есць* і інш. Аднак побач з гэтым пісьменнік уводзіць і некаторыя рэгіянальныя, малавядомыя: *радзімец яго ведае; ляжаць нібы снапы ў таку на перавяслах; цябе як чакаць, дык хутчэй жабу ў Кулігаеўку пугаю гнаць.*

Самыя розныя формы фразеалагічных адзінак сустракаюцца і ў мове аўтара: *вочы мазоліць, упаў у вока, душыцца кашлем, сцяць зубы, упасці ў роспач* і інш. Большасць з іх функцыянальна замацавана, мае гутарковую *(заспець у зладзеях, хоць голаў на кол)* ці кніжную афарбоўку *(вогненны смерч, вогненная купель, крывавая чаша, яго адысея, адыёзная фігура)*. Прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы выступаюць у творах І. Чыгрынава дзейсным сродкам характарыстыкі герояў. Так, у мове Мікіты Драніцы, нікчэмнага, недалёкага чалавека, акрамя недарэчнага *як тэй таго* вобразных, дасціпных выразаў па сутнасці не сустракаецца, у той час як у станоўчых герояў жыхароў Верамеек Зазыбы, Вяршкова і іншых іх вельмі шмат. Рэдка ўжывае прыказкі і прымаўкі адарваны ад народнай глебы Радзівон Чубар.

Для мовы І. Чыгрынава характэрна спалучэнне розных стылістычных пластоў: гутарковага і кніжнага, публіцыстычнага, афіцыйна-дзелавога, што вымагаецца шматграннасцю самога жыцця, якое па-мастацку ўзнаўляе ў сваіх творах пісьменнік. Напрыклад, апісанне вясковага жыцця, мовы сялян істотна адрозніваецца ад апісання дзеючай арміі, мовы герояў-вайскоўцаў. У апошніх прысутнічаюць шматлікія словы з тэрміналагічным значэннем *(стралковая дывізія, вайсковы рэзерв, мясцовыя ваенкаматы* і г. д.), прыводзяцца дакладныя назвы вайсковых адзінак, геаграфічных пунктаў, ужываецца пераважна нейтральная, экспрэсіўна неафарбаваная лексіка. Досыць часта ў сваіх творах І. Чыгрынаў звяртаецца да дакумен-

таў, цытуе, пераказвае змест адозваў, данясенняў, пратаколаў, газетных артыкулаў. Увядзенне афіцыйных дакументаў дапамагае пісьменніку ствараць рэалістычна-дакладную карціну часу.

*Літ.:* Каўрус А. А. Стылістыка беларускай мовы. Мн., 1980; Цікоцкі М. Я. Сугучнасць слоў жывых...: Нататкі па стылістыцы мастацкай літаратуры. Мн., 1981; Дзюбайла П. К. Праблемы стылю ў сучаснай беларускай прозе. Мн., 1973. *Т. К. Грамадчанка.*

## «ЧЭЦЦЯ» 1489 г.

«Чэцця» 1489 г.— рукапісны зборнік рэлігійных твораў павучальнага зместу — жыцій святых пакутнікаў, а таксама слоў і павучанняў старажытнага прапаведніка Іаана Златавуста. Рукапіс мае 752 старонкі тэксту па 2 слупкі на кожнай старонцы. Напісаны тыповым паўуставам 15 ст. Захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Украіны ў Кіеве. Са старабеларускіх рукапісных помнікаў Чэцця вылучаецца тым, што тут змешчаны дакладныя звесткі, кім, дзе і калі твор быў перапісаны. Пра гэта паведамляецца на адвароце 286-й старонкі: «СПІСАНА БЫС КНІГА сія. нарицаемаѧ четыѧ. въ градѣ оу каманци. при великомъ короли андрѣи. В лѣт ꙅ҃.ц҃.ѳ҃чз индикта. вѣ ꙁ а тогды держал ѿт королѧ каманець. панъ третина. кѹхмистръ. А ПСАЛ СІЮ КНИГОУ нѣхто ес березка. З новагородка с литовског поповичъ попа литовоцког снъ семионовъ долъбнича. иж в нитрополии, а псал есми ѿт початка книги сам. ѿт дошки до половины ѿт стго семиѡна до сорок стыхъ.» На наступнай старонцы ёсць яшчэ прыпіска: «СПИСАНА БЫС КНІГА сиѧ повѣлѣнием раба бжіѧ Ѳеѡдра».

Чэцця з'яўляецца выдатным узорам беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы. Буйнейшы гісторык рускай мовы канца 19 ст. А. І. Сабалеўскі адзначаў, што перапісчык Чэцці «...як быццам выкарыстаў усе намаганні, каб зблізіць мову царкоўнаславянскіх тэкстаў з мясцовай заходнярускай» (Соболевский А. И. История русского литературного языка. Л., 1980. С. 60). Да самых лепшых помнікаў старой беларускай мовы залічваў Чэццю і Я. Ф. Карскі. У помніку захоўваецца традыцыйная царкоўнаславянская арфаграфія, аднак напісанні тыпу *васло, багатство, карабль, ничого, хто, што* сведчаць пра беларускае паходжанне пісца. Больш паслядоўна адлюстравана ўласцівае беларускай мове змяненне гука [у] ў пачатку склада на [ў], якое ў помніку абазначаецца літарай *в: вбийство, вбогъ, вжище, вжо, вчинити, вчити, навчитель, невгасимый* і інш. У Чэцці пануючымі з'яўляюцца формы з гукамі [ж] і [ч] у адпаведнасці з царкоўнаславянскімі [жд] і [щ]: *жажа,*



«Чэцця» 1489 г. (старонка рукапісу).

*надежа, ноужа, одежа, помочь, речи, сѣчи.* Побач з царкоўнаславянскімі аддзеяслоўнымі назоўнікамі на *-ие* ў помніку шырока ўжываюцца і беларускія адпаведнікі на *-ье: веселье, дарованье, житье, питье, целованье* і інш. Царкоўнаславянскаму канчатку *-ію* ў творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў былых асноў на *і* адпавядае беларускі канчатак *-ью*, які мае значэнне асноўнай нормы: *бранью, завистью, лестью, мыслью, ночью.* Трапляецца і новы канчатак *-ове* ў назоўніках мужчынскага роду назоўнага склону множнага ліку, які атрымаў шырокае распаўсюджанне ў беларускім пісьменстве пазнейшага часу: *волхвове, готове, оръхове, чинове.*

Беларускія моўныя рысы адзначаюцца і ў сістэме прыметніка. У помніку асноўнай граматычнай нормай выступае канчатак *-ого/-его* ў родным склоне адзіночнага ліку прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду: *ближнего, босого, доброго, нищего, чистого.* Адпаведны царкоўнаславянскі канчатак *-аго/-ѧго* трапляецца зусім рэдка. Прыметнікі жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку часта маюць беларускі канчатак *-ое: великое бѣды, горькое смерти, небесное высоты, чистое дѣвы.* У назоўным склоне множнага ліку часам адзначаецца абагульнены для ўсіх 3 родаў канчатак *-ие: лихие помыслы, многие люди, нищие сироты, розные моуки.*

Беларускіх марфалагічных рыс асабліва многа ў дзеяслове. Формы 3-й асобы цяперашняга часу абодвух лікаў ужываюцца выключна з мяккім канчаткам *-ть: видить, горить, можеть, хочеть, молчать, пытають, слышать.* У помніку вельмі распаўсюджаны таксама формы 2-й асобы цяперашняга часу з канчаткам *-шь*, які адпавядае царкоўнаславянскаму *-ши: бежишь, держишь, любишь, мыслишь, хочешь* і інш. Формы загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку вельмі часта ўжываюцца без канцавога *-и: боудь, видь, ослабь, подь, слышь.* Часта адсутнічае *-и* таксама ў адпаведных формах множнага ліку: *видьте, моучьте, подьте, слышьте.* Формы прошлага часу вылучаюцца тым, што звязка ў складзе перфекта ў 1-й асобе адзіночнага і множнага ліку ўжываецца ў выглядзе *есми* і *есмо* (замест царкоўнаславянскіх *есмь* і *есмъ*): *былъ есми, виделъ есми, нашолъ есми, ехали есмо, слышали есмо.* Беларускія формы асабліва шырока адлюстраваны ў дзеепрыметніку. Былыя формы жаночага роду на *-учи/-ѧчи* ў помніку выступаюць абагульненымі для ўсіх 3 родаў абодвух лікаў, у тэкстах Чэцці яны фактычна выступаюць у значэнні дзеепрыслоўяў: *бероучи, видѧчи, даючи, ждоучи, лежачи, просѧчи, стоѧчи, ходѧчи.* Вельмі часта такія дзеепрыметнікі канчаюцца на *-о: даючо, рекоучо, слышачо, смотрѧчо, стоѧчо.* Такіх утварэнняў зусім не ведаюць іншыя старабеларускія пісьмовыя помнікі.

Чэцця адносіцца да ліку нямногіх помнікаў беларускага пісьменства ранняй эпохі, дзе шырока адлюстраваны дыялектныя дзеяслоўныя рысы. Сюды адносяцца найперш формы загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку з канчаткам *-мо*, які і цяпер захоўваецца ў паўднёва-заходніх беларускіх гаворках: *боудьмо, вѣдаймо, даймо, имѣймо, подьмо, станьмо, стоймо, целоуймо.* Да гэтага тыпу прымыкаюць і дыялектныя формы на *-ѣмъ: веселѣмсѧ, говорѣмъ, посмотрѣмъ, поустѣмъ, творѣмъ.* Дыялектнае паходжанне маюць і формы загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку дзеясловаў II спражэння з канчаткам *-ѣте: говорѣте, послужѣте, смотрѣте, творѣте, ѩвѣте.* Такія формы і цяпер ужываюцца ў паўднёва-заходніх беларускіх гаворках.

У галіне лексікі прыкметную беларускую афарбоўку надаюць помніку шматлікія поўнагалосныя формы тыпу назоўнікаў *берегъ, ворогъ, голова, дорога, здоровье, молодость, оболокъ, порохъ, соромъ, сторона*, а іх царкоўнаславянскія адпаведнікі тыпу *врагъ, глава, злато* адзначаюцца зусім рэдка. Многія іншыя агульнаславянскія паводле паходжання словы ў помніку ўжываюцца ў беларускім фанетыка-арфаграфічным абліччы: *ѡгонь, ѡдинъ, ровнати, розумъ, попелъ, оуноша.* У Чэцці ёсць і ўласнабеларускія лексічныя сродкі, і запазычанні эпохі самастойнага існавання беларускай мовы: назоўнікі *вчинокъ, господаръ, гоукъ, дочка, клопотъ, крыница, моць, мѣстьце, пастоухъ, пекло, помста, початокъ, прикладъ, скарбъ, смоутокъ, часъ*; дзеясловы *досѧгноути, жадати, змоуровати, ѡбецати, пытати*; прыметнікі *вжиточный, лѣпший, не-*

*вдячный, немоцный, пекельный;* прыслоўі *докоуле, завжьды, моцно, нѣколи, прикро.*

З прыведзенага матэрыялу відаць, што беларуская моўная стыхія ў Чэцці выступае даволі адчувальнай. Колькасць беларусізмаў тут значна большая, чым, напрыклад, у пазнейшых выданнях Ф. Скарыны. Аднак у цэлым трэба прызнаць, што вядучай у помніку з'яўляецца царкоўнаславянская стыхія. Для гісторыі беларускай мовы значэнне помніка заключаецца ў тым, што Чэцця лепш за іншыя старажытныя творы адлюстроўвае працэс трансфармацыі царкоўнаславянскай мовы ў беларускую шляхам насычэння яе беларускімі моўнымі сродкамі.

*Літ.:* Карпинский М. Западнорусская Четья 1489 года с приложением жития Бориса и Глеба // Русский филологический вестник. Варшава, 1889. Т. 21. Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967.

*А. І. Жураўскі.*

## ЧЭШСКАЯ МОВА

Чэшская мова — адна з заходнеславянскіх моў (гл. **Заходнеславянскія мовы**), нацыянальная мова чэшскага народа і дзяржаўная Чэшскай Рэспублікі, дзе на ёй гавораць каля 10 млн. чал. (1988), больш за паўмільёна ў ЗША, Канадзе, Аўстрыі і інш. Захаваліся 4 дыялектныя групы: уласначэшская, ганацкая, мараўска-славацкая і ляшская.

Чэшскую мову характарызуюць наступныя рысы: наяўнасць кароткіх і доўгіх галосных фанем (*dráha* 'дарога' — *drahá* 'дарагая'), складаўтваральныя r̥, l̥ (*vl̥k, kr̥k, vítr̥, sl̥-za, ne-sl̥*), часам m̥, n̥ (*o-sm̥, se-dm̥*), рэфлексы *ra (vrána), la (klas), ře (přes), le (mléko)* у праславянскіх групах *tort, tolt, tert, telt* і інш.

Паміж 12 і 16 ст. параўнальна хутка ў чэшскай фанетыцы адбыўся шэраг змен: націск у слове ўсталяваўся на 1-м складзе, праславянскае *g* перайшло ў *h*, з мяккага *ŕ* утварыўся *ř* [р͡ж/р͡ш]. Узнікненне мяккіх зычных спрыяла развіццю перагаласоўкі: *a>ě, á>ie* (12 ст.), *u>i, ú>í* (14 ст.). Памякчаныя зычныя перад *e(ě), i* зацвярдзелі, а *d, t, n* зацвярдзелі толькі перад *e*. З канца 14 ст. пачынаюць адналькава вымаўляцца *i (í)* і *y (ý)*. Да гэтага перыяду дыфтонг *ě* [i͡e] змяніўся ў *e, ie>é*, а *é>í*. Доўгае *o* [ó] перайшло ў *uó>ů, ý>ej, ú>ou*.

Да 16 ст. перасталі існаваць аорыст, імперфект і парны лік, але развілася катэгорыя адушаўлёнасці ў назоўніках (і іншых імён) мужчынскага роду. З-за перагаласоўкі ўтварыўся цэлы шэраг тыпаў скланення назоўнікаў і спражэння дзеясловаў цяперашняга часу. Захаваўся клічны склон. Адсутнічае простая форма прошлага часу.

Чэшская графіка грунтуецца на лацінскім алфавіце. Для гукаў, якія ў ім адсутнічалі, выкарыстоўваюцца надрадковыя (дыякрытычныя) знакі: (') абазначае доўгія галосныя *á, ó, é, í, ý, ú;* (°) над *u* — доўгае ӯ; (ˇ) — шыпячыя *ž* [ж], *š* [ш], *č* [ч] і *ř* [р͡ж/р͡ш], а таксама мяккасць вялікіх *Ď, Ť, Ň* і малога *ň* [нь], а мяккасць малых *d, t* перад *a, o, u* і ў канцы слова паказвае апостраф ('): *ť, ď*. Мяккія *d, t, n* перад *e* абазначаюцца знакам (ˇ) над *e: dělo, německý, tělo*. Калі ж *ě* стаіць пасля губных, то яны вымаўляюцца з [й]: *věda* (в'еда), *pět* (п'ет), але *mě* [мне]. Літары *w, x, g, q* ужываюцца толькі ў словах іншамоўнага паходжання. У прынцыпе чэшская арфаграфія фанетычная, аднак сустракаецца і марфалагічны прынцып напісання: *dub* [дуп], *kletba* [клэдба]; для доўгага [у] ужываюцца 2 літары: *ú* і *ů*; гэтак жа для [і] — *i* і *y*, *í* і *ý* (раней ім адпавядалі [і] і [ы]). Толькі 6 фанем з 25 утвараюць пары па мяккасці — цвёрдасці: (*n — ň, d — ď, t — ť*). Гук *l* [л] мякчэйшы за беларускае цвёрдае *л*, але цвярдзейшы за *ль* і вымаўляецца аднолькава перад *a, o, i, e, u, y*. Гук *h* блізкі да беларускага *г*; *ř* [р͡ж] — пасля глухіх, перад імі і ў канцы слова аглушаецца: *tři* [тр͡ші], *tvář* [твар͡ш]; зычныя перад глухімі і ў канцы слова, акрамя санорных, аглушаюцца. Такая фанетычная з'ява, як чаргаванне галосных і зычных, набыла граматычнае значэнне.

Адрозненні ў скланенні назоўнікаў 3 родаў звязаны з мяккасцю (сучаснай і былой) і цвёрдасцю асновы (*pán; les — muž; stroj; žena — duže; okno — pole*), з адушаўлёнасцю — неадушаўлёнасцю ў імёнах і прыметніках мужчынскага роду.

Кароткія прыметнікі, колькасць якіх абмежавана, у сучаснай чэшскай мове суадносяцца толькі з некаторымі якаснымі прыметнікамі з асновай на цвёрдую зычную (*mlád, chud, hrd, dlužen, nemocen*) і ўжываюцца толькі ў назоўным склоне адзіночнага і множнага лікаў з адушаўлёнымі назоўнікамі.

У чэшскай мове неабавязкова ўжываць займеннік пры асабовых формах дзеяслова: *Píšu ti z Prahy* 'Я пішу табе з Прагі'.

Зваротныя дзеясловы ўжываюцца з двума зваротнымі кампанентамі: *se* і *si: koupat se* 'купацца', *stmívá se* 'цямнее', *lehnout si* 'легчы сабе', *koupit si* 'купіць сабе', *rozumět si* 'разумець адзін аднаго', *žije si vesele* 'ён жыве (сабе) весела'.

Будучы час дзеясловаў закончанага трывання супадае па форме з цяперашнім часам, а ў дзеясловах незакончанага трывання перадаецца спалучэннем форм будучага часу дапаможнага дзеяслова *být* і інфінітыва сэнсавага дзеяслова (*budu pracovat*). Прошлы час утвараецца з асабовых форм цяперашняга часу дзеяслова *být* (*jsem, jsi, je...*) і дзеепрыметніка прошлага часу на *-l (-лъ)* з родавымі канчаткамі: *pracoval, -a jsem; vrátil, -a jsem se, pracovali* (з назоўнікамі мужчынскага роду адушаўлёнымі), *pracovaly* (з неадушаўлёнымі назоўнікамі мужчынскага роду і назоўнікамі жаночага роду), *pracovala* (з назоўнікамі ніякага роду). У чэшскай мове ёсць 2 формы ўмоўнага ладу (цяперашняга часу: *přinesl bych* 'прынёс бы' і прошлага часу: *byl bych přinesl* 'быў бы прынёс').

Дзеепрыслоўі цяперашняга часу адрозніваюцца канчаткамі паводле родаў і лікаў: мужчынскі род *nesa*, жаночы і ніякі род *nesouc*, множны лік для ўсіх родаў *nesouce* 'несучы', *prose — prosíc — prasíce* 'просячы'; таксама ў прошлым часе: мужчынскі *začňuv*, жаночы і ніякі *začnuvši*, множны лік *začnuvše* 'пачаўшы'.

Залежны стан выражаецца або канструкцыяй са зваротным дзеясловам (*okna se myjí* 'вокны мыюцца'), або апісальна — формай кароткага дзеепрыметніка і дзеяслова *být*: цяперашні час (*jsem pochválen, -a*), прошлы (*byl,-a jsem pochválen, -a*), будучы час (*budu pochválen, -a*), загадны лад (*buď pochválen, -a*), умоўны лад цяперашняга часу (*byl, -a bych pochválen, -a*), умоўны лад прошлага часу (*byl, -a bych býval, -a, pochválen, -a*). Інфінітыў у сучаснай чэшскай мове мае суфікс *-t*, а формы з *-ti* з'яўляюцца кніжнымі і слоўнікавымі (невялікая колькасць дзеясловаў з асновай на *-k-, -g-* маюць інфінітывы на *-ci: moci, říci*).

Ёсць некаторыя спецыфічныя рысы і ў сінтаксісе: ужыванне спрагаемых форм дзеяслова *být* 'быць' не толькі ў прошлым, але і ў цяперашнім часе (*jsem lékař* 'я — урач', *otec je dělník* 'бацька — рабочы'); свабодны, але не адвольны парадак слоў у сказе; наяўнасць ненаціскных слоў (энклітыкі) *jsem, si, bych, mě, tě, ho, ti, si, mu, tu, zde, prý* і інш.; вылучэнне члена сказа, які паясняе дзеяслоў у выказніку, але суадносіцца і з імем у дзейніку або ў дапаўненні (т. зв. *doplněk*): *učil se kovářem* 'ён вучыўся за каваля', *přišel unaven* 'ён прыйшоў стомлены', *poznej sám sebe* 'пазнай сам сябе', *doběhl do cíle třetí* 'да мэты ён прыбег трэцім', *viděli jej zdravého a veselého* 'яны бачылі яго здаровым і вясёлым'.

*Літ.:* Havránek B., Jedlička A. Česká mluvnice. Praha, 1960; Зайцева Н. Н. О некоторых эвфемистических названиях в чешском и словацком языках // Лінгвістычныя даследаванні. Мн., 1971; Краўчук Р. У. Да гісторыі назоўнікаў на -ošče ў старажытначэшскай мове // Бел. лінгвістыка. Мн., 1973. Вып. 3; Яго ж. Да марфалагічнай матывацыі ўжывання фарманта -stvie ў старажытначэшскай мове // Тамсама. 1980. Вып. 17; Малько Р. Н. Географическая терминология чешского и словацкого языков (на общеславянском фоне). Мн., 1974; Широкова А. Г. Чешский язык // Славянские языки. М., 1977; Ивашина Н. В., Плотников Б. А. Чешский язык. Мн., 1985.

*І. У. Лучыц-Федарэц.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скарапіс 15 ст.

Скарапіс 16 ст.

Скарапіс 17 ст.

Ф.Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*Свабодна і лёгка ліюцца ў душу*
*Мядовыя пахі лугоў і дубровы...*
*І я аб адным толькі лёс папрашу,—*
*Каб вечна жыло наша роднае слова!*
*Хай крэўнасцю сэрца яно захлісне,*
*Як дождж, што сасмяглая глеба*
*ўбірае...*
*Айчыны паветра сілкуе мяне*
*І матчынай мовы акраец.*

Сяргей Законнікаў



**Ш** — *дваццаць сёмая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Ш («ша»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускай мовы. Абазначала зычны гук* ш (шапка, шумъ). *Наяўнасць у старабеларускім пісьменстве паралельных варыянтаў тыпу* грошы — гроши, шыло — шило *тлумачыцца традыцыйным характарам тагачаснага пісьма і не сведчыць аб мяккасці* ш. *Лічбавага значэння не мела. У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваца як вялікая і малая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае шумны глухі зацвярдзелы шчылінны пярэднеязычны зычны гук* ш (шалаш, шышка). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дваццаць пяты» (група «Ш»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 5ш).* *А. М. Булыка*

## ШАКУН ЛЕЎ МІХАЙЛАВІЧ

Беларускі мовазнавец Л. М. Шакун нарадзіўся 14 верасня 1926 г. ў в. Браткава Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў БДУ (1950).



У 1953 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю аб ужыванні поўных і кароткіх форм прыметнікаў у беларускай мове і працаваў на кафедры беларускай мовы універсітэта старшым выкладчыкам, затым дацэнтам. У 1965 г. абараніў доктарскую дысертацыю па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. З 1967 г. прафесар і загадчык кафедры. У 1979 г. атрымаў званне заслужанага работніка вышэйшай школы БССР. З'яўляецца рэдактарам часопіса «Веснік БДУ» (сер. 4), членам рэдкалегіі міжведамаснага навуковага штогодніка «Беларуская мова».

Галоўны аб'ект навуковых даследаванняў Л. М. Шакуна — гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Ён аўтар манаграфічных прац «Нарысы па гісторыі беларускай літаратурнай мовы» (1960) і «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (1963). Апошняя праца была дапушчана Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі. У гэтым дапаможніку ўпершыню прааналізаваны працэс развіцця беларускай літаратурнай мовы ад часоў узнікнення да нашых дзён, для кожнага гістарычнага перыяду вызначаны сферы яе выкарыстання, суадносіны з народнымі гаворкамі і роля асобных аўтараў — пісьменнікаў, публіцыстаў, вучоных, розных арыгінальных і перакладных твораў у станаўленні функцыянальных стыляў. У 1984 г. дапаможнік перавыдадзены са значнымі зменамі і ўдакладненнямі і ў 1986 г. ўдастоены Дзяржаўнай прэміі БССР. Тэматычным дапаўненнем гэтага дапаможніка стаў падрыхтаваны Л. М. Шакуном у сааўтарстве з В. П. Красneем 2-і дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі — «Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы», які таксама выдаваўся двойчы (1978, 1986). Ён складаецца з 3 раздзелаў: літаратурная мова Старажытнай Русі, старабеларуская літаратурная мова, новая беларуская літаратурная мова. У кожным раздзеле даюцца кароткія звесткі аб літаратурнай мове адпаведнага перыяду і пісьмовых помніках, а таксама тэксты помнікаў па ўсіх стагоддзях з лінгвістычнымі каментарыямі і заданнямі для аналізу і самакантролю.

Вялікія заслугі Л. М. Шакуна ў распрацоўцы праблем сучаснай марфемікі беларускай літаратурнай мовы і яе словаўтварэння. Сумесна з А. М. Бардовічам ён стварыў «Марфемны слоўнік беларускай мовы» (1975; 2 выд. 1989, 75 тыс. лексем), дзе зафіксавана каля 60 тысяч лексем з чляненнем іх на структурныя сэнсавыя часткі. Л. М. Шакун з'яўляецца аўтарам вучэбнага дапаможніка для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі «Словаўтварэнне» (1978), у якім ахарактарызаваны марфемныя сродкі сучаснай беларускай літаратурнай мовы (корань, афіксоід, прыстаўка, суфікс, конфікс, постфікс, канчатак) з боку іх выражэння, значэння і функцый, раскрыты паняцці словаўтваральнага тыпу і словаўтваральнай мадэлі, апісаны асноўныя спосабы сучаснага беларускага словаўтварэн-

ня наогул і розных часцін мовы паасобку, прыведзены кароткія звесткі аб распрацоўцы тэорыі словаўтварэння ў айчынным мовазнаўстве.

Л. М. Шакун займаецца і гісторыяй беларускага мовазнаўства. Ён аўтар «Кароткага агляду развіцця беларускага мовазнаўства», змешчанага ў якасці ўступу да бібліяграфічнага паказальніка «Беларускае мовазнаўства» (1967), а таксама артыкулаў «50 гадоў беларускага савецкага мовазнаўства» (1969), «Развіццё мовазнаўства ў БДУ» (1971), «Роля Б. А. Тарашкевіча ў развіцці беларускай літаратурнай мовы» (1981), «Я. Ф. Карскі як даследчык гісторыі беларускай мовы» (1985).

*Тв.:* Аб ужыванні поўных і кароткіх форм прыметнікаў у складзе выказніка ў сучаснай беларускай мове // Уч. зап. БГУ. 1956. Вып. 27; Значэнне царкоўнаславянскай мовы ў развіцці беларускай літаратурнай мовы // Даследаванні па беларускай і рускай мовах. Мн., 1958; Станаўленне і развіццё беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1959; Ф. Скарына і пытанні гісторыі беларускай літаратурнай мовы // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; К вопросу о взаимодействии белорусского литературного языка и диалектов в советскую эпоху // Проблемы истории и диалектологии славянских языков. М., 1971; Некаторыя асаблівасці функцыянальнага развіцця беларускай літаратурнай мовы ў савецкую эпоху // Беларуская мова і мовазнаўства. Мн., 1973. Вып. 1; Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў сям'і братніх народаў Савецкага Саюза // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1978. № 6; Роля Янкі Купалы ў развіцці беларускай літаратурнай мовы // Тамсама. 1982. № 3; Словаўтваральны статус запазычанняў у сучаснай беларускай мове // Весн. БДУ. Сер. 4. 1983. № 2; Стилистика скорининских предисловий // Франциск Скорина — белорусский гуманист, просветитель, первопечатник. Мн., 1989; Да праблематыкі і гісторыі вывучэння беларуска-польскіх моўных узаемаадносін // Шляхам стагоддзяў. Мн., 1992.

*Літ.* Лазоўскі У. М. Л. М. Шакун: Да 60-годдзя з дня нараджэння // Весн. БДУ. Сер. 4. 1986. № 2; Краснеи В. П. Л. М. Шакун: К 60-летию со дня рождения // Филологические. науки. М., 1987. *І. К. Германовіч.*

## ШАМЯКІН ІВАН ПЯТРОВІЧ



І. П. Шамякін нарадзіўся 30 студзеня 1921 г. ў в. Карма Добрушскага раёна. Народны пісьменнік Беларусі (1972). Акадэмік АН Беларусі (1994; член-карэспандэнт з 1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР 1951 г. (за раман «Глыбокая плынь», 1947—48), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа 1968 г. (за раман «Сэрца на далоні», 1963, кнігу «Трывожнае шчасце», 1957—65), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа 1959 г. (за раман «Крыніцы», 1956), Літаратурнай прэміі Міністэрства абароны СССР 1978 г. (за аповесці «Гандлярка і паэт», 1976, «Шлюбная ноч», 1975). Настаўнічаў (1945—48), працаваў галоўным рэдактарам альманаха «Советская Отчизна» (1952—53). У 1954—80 гг. сакратар, першы сакратар СП БССР. З 1980 да 1992 г.— галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя П. Броўкі.

Пачаў друкавацца ў 1941 г. Першае апавяданне «У снежнай пустыні» (1944), аповесць «Помста» (1945). І. Шамякін — аўтар 10 раманаў, кнігі (пенталогіі) аповесцей «Трывожнае шчасце», 11 зборнікаў аповесцей і апавяданняў, 7 п'ес, кіна- і тэлесцэнарыяў, літаратурна-крытычных артыкулаў, мемуараў.

Мова твораў Шамякіна адлюстроўвае своеасаблівасць яго творчай індывідуальнасці. З найбольшай выразнасцю ўзаемасувязь формы і зместу, адметнасць апавядальнай манеры ўвасоблена ў празаічных, галоўным чынам буйных творах пісьменніка. Мова аповесцей «Трывожнае шчасце», раманаў «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы» і інш. выяўляе характэрнае ў жыццёва-светапоглядная і творчай арыентацыі Шамякіна — грамадзянскую заклапочанасць, цікавасць да надзённых праблем жыцця, схільнасць да востраканфліктнага сюжэтабудавання, дынамічнага псіхалагізму.

Шамякін — прадстаўнік рэалістычнай, народнай па сваіх вытоках эпічнай традыцыі з уласцівымі для яе лагічна-паслядоўным развіццём думкі, яснай і дакладнай мовай. Спашлемся на ўрывак з апавядання «Бацькі і дзеці». *Я быў ужо на фронце ранены і ведаў, якія нечаканыя ўяўленні прыходзяць, калі чалавек пачынае трызніць. Але я выразна чуў голас — нехта расказваў пра бой за той райцэнтр, дзе мяне параніла... і ў гэты час я перад сабой бачу жэрдачку з пляцёнкай цыбулі на ёй, накрытай старэнькай кофтачкай. Усё гэта было вельмі знаёма, усё гэта я пазнаў бы дзе хочаш, бо гэта была жэрдачка, што вісела ў маёй роднай хаце, і кофтачка маёй маці. Я глянуў наперад і ўбачыў верхнюю частку акна, а з боку акна край рамкі для фатаграфіі, якую я таксама некалі рабіў сам. Я зразумеў, што не трызню, што я сапраўды ў роднай хаце...* У гэтым тэксце няма спецыфічна выяўленчых сродкаў, словы, сагрэтыя шчырасцю спавядальнай інтанацыі, ужыты ў іх канкрэтным, намінатыўным значэнні, аднак выбраны яны трапна, дакладна пастаўлены на сваё месца ў радку. У выніку створаны псіхалагічна праўдзівы малюнак жыцця. Мова Шамякіна, адлюстроўваючы ўмелае валоданне «звычайным» словам, разам з тым выяўляе і набыткі яго мастакоўскай скарбонкі. У творах пісьменніка нямала цікавых прыкладаў узвядзення слова ў вобраз, мэтанакіраванага выкарыстання тропаў. Так, знешні партрэт настаўніцы Надзежды Іванаўны (апавяданне «Непрыгожая») эскізна акрэслены прыметнікамі (*грубаватыя* рысы твару, *вельмі ўжо простая* прычоска, *шурпатыя, мазолістыя* далоні). Сапраўдная чалавечая сутнасць гераіні перадаецца праз тропы (эпітэты, метафары, параўнанне), якія паэтызуюць гэту сціплую жанчыну, прычым апасродкавана, шляхам паралелей з навакольнай прыроды (*дзіўны бярэзнік, казачнае святло, дзіўная цішыня* і інш.). У творы суіснуюць дзве метафары-мадэлі Красы жыцця: *прыгажуня-бяроза* (шыракавядомы сімвал) і *невялічкі, непрыкметны клёнік* — сюжэтны аналаг Надзежды Іванаўны — «добрага чалавека», які сам «стварае прыгажосць».

Адным з пашыраных у мове Шамякіна тропаў з'яўляецца параўнанне — зноў жа прадметна-канкрэтнае, звязанае з рэаліямі побыту, пэўнымі жыццёвымі абставінамі, выразнае ў сваёй ацэначнай функцыі: *Уроссып,* ***як зладзеі,*** *уцякаюць бамбардзіроўшчыкі, шныраюць,* ***як сабакі,*** *чорныя «месершміты», чорныя,* ***як вужы,*** *«месершміты»* («Агонь і снег»); *хлапчукі,* ***як звяркі,*** *цікаўныя і спалоханыя, старая,* ***як здзічэлая сава*** («Мост»); рэктар навучальнай установы *падобен на старога афіцыянта дарэвалюцыйнай выўчкі* («Атланты і карыятыды»). Параўнанне ў І. Шамякіна — нярэдка шматзначная заяўка на востры палемічны змест твора, як, напрыклад, параўнанне паўночнага ветру з аўтаматнай чаргой у першых радках рамана «Атланты і карыятыды». Параўнанні ў пейзажнай замалёўцы з апавядання «Дубы» таксама падрыхтоўваюць чытача да ўспрыняцця падзей перыяду грамадзянскай і Айчыннай войнаў. *Рэдкія лісты зрываліся з галін асілкаў і ляцелі ўніз павольна, асцярожна,* ***як разведчыкі,*** *лажыліся на зямлю роўна і прыгожа, накрываючы*

*жоўта-зялёныя жалуды, якія, наадварот, падалі з вышыні імкліва,* ***як кулі,*** *і гучна чмякаліся аб мяккую зямлю.*

Асаблівасцю лексічнага складу мовы Шамякіна з'яўляецца мінімальная наяўнасць у ёй дыялектызмаў і слоў іншамоўнага паходжання, якія ўжываюцца пераважна як сродак індывідуалізацыі персанажа: германізмы ў аповесцях «Помста», рамане «Глыбокая плынь» і іншых творах пра Вялікую Айчынную вайну *(обер-лейтэнант, нойорднунг, гітлерюгенд, айн мамэнт, ніхт фэрштэйн, хайль, фольксдойч);* русізмы ў песнях і рэпліках разведчыцы Машы з аповесці «Шлюбная ноч» *(С сестрой твоей, Степан, ходить невозможно. Она летит, что дикая коза. Как она уморила меня)* і інш.; украінізмы ў мове партызана Жаўны з рамана «Глыбокая плынь» *(Есць адна* ***дужэ*** *пільная справа...* ***Чы*** *не думаеце вы, Павел Сцяпанавіч, што* ***воны*** *ўзялі маё імя таму, што я беспартыйны?)* і інш. Насычанасцю вульгарызмамі характэрны «рыначны сленг» Вольгі Ляновіч з аповесці «Гандлярка і паэт» *(Ты са мной,* ***морда,*** *не заядайся...; На, страляй! Забівай сваіх,* ***падла*** *ты!.., А ну, загавары па-нашаму,* ***зараза****!).*

Пісьменнік даволі шырока выкарыстоўвае тэрміны з розных прафесійных сфер: вайсковай — у аповесцях «Помста», «Агонь і снег» і інш. *(бункер, бронетранспарцёр, месершміт, баннік, аптычны прыцэл, рама);* медыцынскай — у рамане «Сэрца на далоні» і інш. *(кансіліум, дыягназ, ардынатар, скальпель, пеніцылін);* педагагічнай — у рамане «Крыніцы», аповесцях «Мост», «Ах, Міхаліна, Міхаліна...» *(райана, педсавет, атэстат сталасці);* будаўнічай *(дызайнер, дойлід, праект, фрыз, капітэль, фасад)* — у рамане «Атланты і карыятыды». Увасабляючы гістарычную тэму, Шамякін ашчадна, па меры неабходнасці, ужывае тэрміналогію і лексіку мінулых часоў — публіцыстычную, афіцыйна-дакументальную, прафесійную, бытавую (раман «Петраград — Брэст», аповесць «Першы генерал», кінааповесць «Эшалон прайшоў» і інш.).

Характэрная адметнасць мовы Шамякіна — вялікая колькасць у ёй элементаў гумару, іроніі, сатыры. Гэта адзнака асабістай схільнасці пісьменніка (і блізкіх яму персанажаў) да жарту, здольнасці бачыць жыццё з розных бакоў, у розных праявах — драматычных і камічных. Так, генерал у адстаўцы Піліп Жмянькоў *рыхтаваўся да грыбнога паходу з такой сур'ёзнасцю, быццам распрацоўваў план Сталінградскага акружэння ці па меншай меры Бабруйскага катла* («Першы генерал»). Або сцэна з побыту сучаснага горада: *Моладзь, адгуляўшы ў клубах і кафэ, не расходзіцца — раз'язджаецца, як маладыя купчыкі. Толькі тыя ездзілі на рамізніку, гэтыя — на таксі. Прагрэс* («Атланты і карыятыды»). Ажыўляюць дасціпам мову Шамякіна фразеалагізмы: *з'еў на гэтым зубы, з'еў не адзін пуд солі* («Снежныя зімы»); *ставілі і гэтае лыка ў яго справу, з бору па сасонцы, ідэі... у пячонцы сядзяць, перамыйце мае косткі* («Атланты і карыятыды»); *страціла розум, уцякла далей ад грахоў* («Ах, Міхаліна, Міхаліна...»).

Асаблівасць мовы Шамякіна выяўляецца і ў сінтаксічнай будове сказа — лаканічнага, без белетрыстычных аздоб, з прыкметнай вылучанасцю сэнсава значных слоў. Так, дзеяслоў у творах Шамякіна — моўная адзінка, якая нясе павышаную ідэйна-эмацыянальную нагрузку; ён — галоўны рухавік сюжэта, сродак драматызацыі дзеяння, выразнік яго тэмпу і рытму:

*— Цэль злоўлена. Агонь!*

*Малайчына Астахаў! Стрэл* ***грымнуў*** *без затрымкі. Другі — так хутка за першым, што я, аслеплены ўспышкай, не ўправіўся зноў злавіць цэль...*

*Цэль... А-а-онь! — не зусім па правілах камандаваў я. Але Астахаў добра разумеў: «цэль —* ***зараджай****», «онь —* ***страляй****». І раптам бачу, што пад самалётам, які я вёў у аптычным прыцэле,* ***шугнула*** *полымя, мусіць,* ***выбухнуў*** *бензабак, і ахутаная дымам машына, нязграбна і цяжка куляючыся ў паветры,* ***грымнулася*** *на суседнюю сопку* («Агонь і снег»). Ланцуг дзеясловаў перадае нарастанне энергіі бою, фізічнага і духоўнага напружання зенітчыкаў, ствараючы ілюзію супадзення ў часе самой падзеі, яе апісання і чытацкай далучанасці, суперажывання.

Мова Шамякіна выяўляе асаблівасці выкарыстання слова ў працэсе індывідуалізацыі характару. У аўтарскай мове гэта пераважна знешняя партрэтная дэталь: жэст, міміка, выраз твару, звычка. Напрыклад, завуч школы Арэшкін (раман «Крыніцы») пры размове *гладзіць* сэрца (жэст сведчыць пра самазадаволенасць чалавека), старшыня калгаса Махнач мае *папоўскую* звычку круціць пальцамі, склаўшы рукі на жываце. У лайдака Крыкуна, які называе сябе прадстаўніком працоўнага народа, белыя, *нерабочыя* рукі, у дэмагога і прыстасаванца Смака, старшыні калгаса, *прыемны* твар, вясёлы, бестурботны позірк, кантрастная псіхалагічная дэталь (нарысы «Крытыкун», «Падмочаны»). Узаемасувязь характару і абставін дакладна перадае прадметная дэталь. У аповесці «Агонь і снег» такой дэталлю з'яўляецца апазнавальны знак нямецкага самалёта — свастыка, якую штодня бачыць зенітчык Пятро Шапятовіч і якая стала для яго ўвасабленнем варожай сілы. Прыём «нагнятання» дэталі — мэтанакіраваны сродак драматызацыі дзеяння, актывізацыі духоўнага развіцця героя. Выраз «крыжы на крылах» тройчы занатаваны ў аповесці: *Я глянуў у неба і мімаволі прыгнуўся: проста нада мной, у самым зеніце, віселі два чорныя крыжы ў жоўтых кругах. Больш я нічога не бачыў — толькі гэтыя агідныя крыжы; У гары зноў зараўлі маторы. Я задраў галаву і... зноў убачыў усё тыя ж крыжы... Злавесныя крыжы!; Я глянуў угару і, як у першым баі, убачыў чорныя крыжы ў жоўтых кругах. Быццам хваляй ад выбуху, ударыла ў сэрца, у галаву нянавісць, лютая злосць на гэтыя крыжы.* Тры эпізоды і адпаведна тры ступені «трансфармацыі» пачуцця маладога салдата: ад разгубленасці і страху праз абурэнне і сорам за сваё бяссілле да абуджэння асабістай нянавісці, якая да гэтага часу жыла ў ім як патэнцыяльная, пакуль яшчэ абстрактная нянавісць да ворага. Напісаная ў форме дзённіка, ад першай асобы аповесць «Агонь і снег» дае ўяўленне аб прыёмах самахарактарыстыкі персанажа, што з асаблівай выразнасцю выяўлена ў мове дыялогаў і маналогаў. Простая мова ў творах Шамякіна — галоўны сродак раскрыцця ўнутранага свету героя. Так, у рамане «Сэрца на далоні» мова хірурга Яраша сведчыць пра сілу і стрыманасць характару, журналіста Шыковіча — пра жывасць, эмацыянальнасць натуры; мова Зосі Савіч перадае яе трапяткі душэўны непакой, насычаная элементамі «моднага жаргону» мова Славіка Шыковіча — яго самаўпэўненасць, прэтэнзію на выключнасць. Эмацыянальна глухі, чэрствы Гукан як бы «ўзважвае» кожнае слова, нярэдка ўтойваючы яго сапраўдны сэнс. У дыялогу, які звычайна перарастае ў слоўны паядынак, аўтар не абмяжоўвае свабоды самараскрыцця, даючы магчымасць кожнаму з апанентаў выказаць свой погляд, меркаванні і аргументы. Паказальныя ў гэтым плане дыялогі паміж персанажамі-антыподамі Бародкам і Лемяшэвічам («Крыніцы»), Пясоцкім і Кідалам («Агонь і снег»), Антанюком і Будыкам («Снежныя зімы»), Карначом і Макаедам («Атланты і карыятыды») і інш.

Творчая эвалюцыя Шамякіна адлюстроўвае імкненне пісьменніка выкарыстаць больш поўна патэнцыяльныя магчымасці мастацкага слова, паглыбіць псіхалагічны аналіз — перадаць больш дасканала складанасць духоўнага жыцця чалавека. Шамякін па-майстэрску выкарыстоўвае найбольш прыдатную для гэтага форму — унутраны маналог. «Плынь свядомасці» героя, як правіла, актыўная ў сваіх сувязях з фабулай, рэтраспектыўным планам. Схільнасць да самааналізу і філасофскіх абагульненняў — нажытая з часам якасць Івана Васільевіча Антанюка («Снежныя зімы»). Адзін толькі зімовы вечар, адлюстраваны ў яго роздуме ў час прагулкі (аб'екты назірання, ацэначныя моманты), дае дастаткова падстаў для агульнага ўяўлення пра гэтага чалавека: яго

нялёгкі лёс, неадназначнасць характару, сапраўдны гуманізм пераканання: *Я мысліў заўсёды канкрэтна. Можа таму часам звужана. Толькі цяпер я зразумеў, што можна неабмежавана расшырыць гарызонты сваіх думак і пачуццяў. Гэта дае новую радасць, узвышае і вызваляе ад шмат якіх умоўнасцей — ад тых, што цяжкімі путамі павісаюць на сэрцы. О не! Я не стаў анархістам! Я за дысцыпліну, за самую высокую! Але за такую, якая ніколі не можа прынізіць чалавека, абразіць яго лепшыя парывы, імкненні, яго гонар і нават слабасці, звычайныя, без якіх, напэўна, немагчыма жыццё такое, якое яно ёсць,— расквечанае ўсімі фарбамі вясны, лета, восені, і нават зімы.* Эмацыянальны лад, рытмічная арганізацыя ўрыўка перадаюць характэрную для спавядальнай «я-формы» маналогаў душэўную ўзрушанасць, раскаванасць і супярэчлівасць думкі, што выяўляецца ў інтанацыйным багацці фразы (пытальныя і клічныя сказы, выразы, сцвярджэнне і адмаўленне, паўторы, паўза). Паглыбленаму выяўленню эмацыянальнай сферы жыцця садзейнічаюць лірычныя адступленні, злучаныя з падзейнай асновай твора асацыятыўнымі паралелямі. Актывізацыя ў апавядальнай тканіне суб'ектыўнага пачатку абумоўлена жаданнем аўтара выказаць праз пазасюжэтныя формы, сродкі асабісты погляд на апісаныя падзеі ці ўвогуле — сваю канцэпцыю жыцця. Так, лірычныя адступленні, насычаныя яркімі, шматфарбнымі тропамі, вызначаюць стылёвую адметнасць аповесцей Шамякіна «Непаўторная вясна», «Агонь і снег». Пісьменнік сцвярджае высокія ідэалы, адвечныя маральныя каштоўнасці. Лірычныя адступленні часам набываюць выгляд прамога звароту да чытача.

І. Шамякін таксама аўтар шматлікіх літаратурна-крытычных артыкулаў, рэцэнзій, у якіх асэнсоўваюцца розныя праблемы развіцця беларускай мовы, пераважна на матэрыяле творчасці вядомых пісьменнікаў. Звяртаючыся да творчага вопыту Я. Коласа, ён знаходзіць у выказваннях класіка беларускай літаратуры сугучнасць сваім поглядам: «Колас заўсёды патрабаваў ад мастацкага твора прастаты і яснасці... і вельмі часта прыводзіў у прыклад Пушкіна — чытаў на памяць» (артыкул «Сустрэча з настаўнікам»). Разглядаючы раман І. Навуменкі «Вецер у соснах», у аднайменнай рэцэнзіі пісьменнік аналізуе асаблівасці мовы твора. У рэцэнзіі «Вопыт, талент, праца», прысвечанай А. Кулакоўскаму, Шамякін характарызуе мову землякоў пісьменніка, сялян вёскі Кулакі, як «набліжаную да літаратурных нормаў, сакавітую, вобразную, каларытную». У артыкуле «Жыццё, сцэна, экран» узнімае праблему чысціні і культуры мовы працаўнікоў розных сфер масавай інфармацыі. У артыкулах «Здабыткі аднаго года», «Аптымізм і неспакой» Шамякін асэнсоўвае агульныя недахопы формы, мовы мастацкіх твораў у сувязі з патрэбай павышэння папулярнасці, чытабельнасці беларускай кнігі, з перспектывамі яе развіцця — яе будучыні.

*Тв.:* Зб. тв. Т. 1—5. Мн., 1965—66; Зб. тв. Т. 1—6. Мн., 1977—79.

*Літ.:* Пашкевич Н. На эпическом направлении: Подвиг народа в бел. романе. М., 1969; Бугаёў Д. Шматграннасць: Літ.-крыт. арт. і рэц. Мн., 1970; Стыль пісьменніка. Мн., 1974; Коваленко В. Иван Шамякин: Очерк творчества. М., 1979; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Ч. 2. Мн., 1982.

*А. Ф. Лысенка.*

## ШАТЭРНІК МІКАЛАЙ ВАСІЛЕВІЧ



Беларускі мовазнавец М. В. Шатэрнік нарадзіўся 11 верасня 1890 г. ў в. Старына Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1914). Працаваў у школах на Міншчыне. Пасля заканчэння ў 1933 г. педагагічнага інстытута ў Мінску выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Аршанскім педтэхнікуме. Памёр 2 снежня 1934 г.

М. В. Шатэрнік выступаў у друку з артыкуламі на педагагічныя і метадычныя тэмы, займаўся краязнаўчай работай, уклаў і выдаў «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» (1929), у аснову якога пакладзена лексіка, сабраная ў 35 населеных пунктах 3 раёнаў былога Ігуменскага павета — Пухавіцкага, Смілавіцкага і Шацкага. Пераважная большасць лексем (прыкладна 90 %) зафіксавана ў в. Старына, дзе нарадзіўся і вырас аўтар і гаворка якой была яму найбольш знаёмай і блізкай.

«Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» змяшчае каля 9 тыс. слоў. Гэта і словы агульнанародныя, вядомыя на тэрыторыі ўсёй Беларусі, і словы вузкамясцовыя, уласцівыя толькі гаворкам Чэрвеншчыны. У асобныя слоўнікавыя артыкулы вылучаны і некаторыя фразеалагічныя звароты: *балясы тачыць, даць драпака, духі выняць, за блізкі свет, узяць на цугундзер.* Загалоўныя словы і фразеалагічныя звароты ў слоўніку падаюцца паводле тагачаснага правапісу з абазначэннем націску. Лексічныя значэнні тлумачацца рускімі літаратурнымі адпаведнікамі, а калі іх няма — апісальна, прычым таксама па-руску. Калі слова ці фразеалагічны зварот мае некалькі лексічных значэнняў, яны прыводзяцца асобна пад парадкавымі лічбамі ад найбольш агульнага да прыватных. Кожнае са значэнняў ілюструецца прыкладамі звязнага тэксту ў фанетычным запісе з указаннем населенага пункта, дзе яны зафіксаваны. У якасці ілюстрацыйных прыкладаў выкарыстаны прыказкі і прымаўкі. З дублетных і варыянтных слоў, змешчаных у розных артыкулах, тлумачыцца толькі адно, найбольш ужывальнае, а іншыя падаюцца са спасылкай на яго. Пры гэтым спасылачныя словы звычайна ілюструюцца тэкстам. Фанетычныя, граматычныя і словаўтваральныя варыянты слова часцей змяшчаюцца побач у якасці загалоўных, напрыклад: *газоўка, газулька, газніца; гэны, гэсты; чапяла, чапяля.*

Змяняльныя загалоўныя словы фіксуюцца, як правіла, у сваіх зыходных формах, у дужках з адпаведнай паметай прыводзяцца і некаторыя граматычныя формы і нават дэрываты. Так, пры назоўніках даюцца канчаткі форм роднага склону адзіночнага ці


КРАЁВЫ СЛОЎНІК
ЧЭРВЕНШЧЫНЫ

М. В. Шатэрнік. «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны». 1929.

множнага ліку, пры якасных прыметніках — кароткія і памяншальныя формы, зрэдку аднакаранёвыя прыслоўі на *-а*, пры дзеясловах — зваротныя формы, формы закончанага трывання і дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу. Формы ступеней параўнання якасных прыметнікаў падаюцца як загалоўныя, на правах самастойных слоў. Кожнае слова суправаджаецца граматычнымі паметамі. Да запазычаных слоў часта даюцца даведкі пра крыніцу іх запазычання, да мясцовых назваў раслін-нага і жывёльнага свету пасля рускага адпаведніка ў дужках прыводзяцца прынятыя ў батаніцы ці заалогіі лацінскія навуковыя тэрміны. «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» стаў значным укладам у беларускую дыялектную лексікаграфію.

*Літ.*: Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навук. дзейнасці. Мн., 1985. *І. К. Германовіч.*

## ШКРАБА РЫГОР ВАСІЛЕВІЧ

Беларускі крытык, філолаг Р. В. Шкраба нарадзіўся 17 сакавіка 1919 г. ў в. Краснадворцы Салігорскага раёна. У 1946 г. скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» (1946—57), у часопісе «Полымя» (з 1957, у 1959—79 рэдактар аддзела крытыкі і літаратуразнаўства). Заслужаны работнік культуры БССР (1978). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа 1989 г. У друку стала выступае з 1945 г. Даследуе пераважна асаблівасці творчай індывідуальнасці, мастацка-моўнага майстэрства пісьменніка. Шмат увагі аддае культуры мовы і стылістыцы, праблеме ўзаемадзеяння жывой народнай і кніжнай мовы, пераважна на ўзроўні лексікі і фразеалогіі. Тэматыка і праблематыка яго прац у значнай ступені адлюстраваліся ў назвах кніг «Сіла слова» (1958), «Характар, стыль, дэталь» (1965), «Літаратура і мова» (1969), «Скарбы» (1973), «Крынічнае слова» (1987, разам з І. Шкраба), «Энергія слова» (1988), «Моваю вобразаў» (1989). Аўтар падручнікаў «Беларуская савецкая літаратура» для 10-га і 11-га класаў сярэдняй школы (перавыдаюцца з 1974 г.), сааўтар падручніка-хрэстаматыі «Родная літаратура» для 5-га класа (8 выд., 1990).

Вялікае месца ў працах Р. В. Шкрабы адводзіцца праблеме стаўлення пісьменніка да жывой народнай мовы. Крытык высноўвае думку: «Як бы добра ні ведаў пісьменнік мову, як бы ні ўзбагачаў свае запасы, яму ўвесь час будзе не хапаць слоў, выразаў, выпрабаваных сінтаксічных сродкаў. І толькі ў жывой мове, на глебе якой вырастае літаратурная мова і сокамі якой яна жывіцца, ёсць усё, што трэба пісьменніку, каб стварыць свой стыль (Жывая крыніца // Шкраба Р. Скарбы: Літ.-крыт. артыкулы. Мн., 1973. С. 45—46). Як узор карыстання народнымі скарбамі Шкраба называе творчасць К. Чорнага і не раз прыводзіць ілюстрацыі яго сціслай і змястоўнай, жывой і вобразнай мовы. Развіваючы думку К. Чорнага пра неабходнасць выкарыстання мастацкага і моўнага вопыту народных апавядальнікаў і казачнікаў у пісьменніцкай працы, крытык паказвае багаты выяўленча-вобразны патэнцыял беларускага словаўтварэння: «Падумаем, колькі слоў трэба, каб даць уяўленне пра вельмі густы лес? Мусіць, нямала. А казачнік абышоўся адным словам: «гушчэча». Амаль тое ж, што і гушчар, але і нешта новае. Вы бачыце, як мова ўвесь час мяняецца, пераліваецца, ніяк не можа супакоіцца. Яна ўвесь час нібы выпрабоўвае самую сябе. Прымерваецца: так можна сказаць, а ці нельга сказаць інакш. Многа ваўкоў — гэта гайня. А калі вельмі многа — ваўкаўня. А калі многа-многа — ваўкачэча. Далёка — гэта няблізка. Але ёсць яшчэ разуменне: вельмі далёка. А калі яшчэ далей за вельмі далёка? Тады на Случчыне скажуць: далезазна — і вы па інтанацыі адчуеце, што гэта — вельмі-вельмі далёка, за даламі і за марамі» (тамсама. С. 40).

Прыязна і ашчадна ставіцца Шкраба і да дыялектызмаў. У артыкуле «Як размаўляюць людзі» ён піша: «...нам не трэба цурацца мясцовых слоў. У дыялектах ёсць многа такога, шо можна смела ўводзіць у літаратуру. Не ведаю, як у аўтарскай мове, а ў вуснах персанажа куды лепш загучыць дыялектнае «абмашка», чым «пралік», якое набыло ў літаратурнай мове значэнне універсальнае» (Шкраба Р. Літаратура і мова: Кн. пра майстэрства. Мн., 1969. С. 284). Далей прыводзяцца словы з «Дыялектнага слоўніка» Г. Юрчанкі: *пярвусцінка* (карова, што прывяла першае цяля), *леташок* (леташняе жарабя), *зялепуха, накасацца, некальства, панароўка* і інш., якія, на меркаванне крытыка, маюць падставы ўжывацца шырэй, «...бо гучаць свежа, бо нясуць экспрэсію, бо зразумелыя і дакладныя» (тамсама. С. 285). Названыя словы разглядаюцца як магчымыя заменнікі ка́лек, заштампаваных слоў, штучных утварэнняў. Выявіў і падтрымаў Шкраба і слова *ўчуткі*: «Мы сёння скажам, напрыклад: «Чалавек загаварыў голасна», або можна прачытаць у друку ці пачуць па радыё яшчэ больш нязграбнае і штучнае слова — «услых». У апавяданні Цішкі Гартнага «Дойдзем, сынок» ёсць выраз: «Апошнія думкі Маланка выказала ўчуткі». Сучасныя слоўнікі не даюць слова «ўчуткі» нават у якасці сіноніма, а яно куды лепшае за штучнае «ўслых» (Праз многа год // Шкраба Р. Характар, стыль, дэталь: Літ.-крыт. артыкулы. Мн., 1965. С. 258).

У працах Шкрабы асвятляецца нарматыўны аспект шмат якіх слоў. Тут нельга не назваць бліскучых нататкаў пра слова *рабяты*, не сказаць пра негатыўныя адносіны да слоў *зубронак* (трэба: *зубраня*), *з'яўляецца* (пры частым ужыванні), пра абарону слова *прыкмета*, якое пачалі выцясняць варыянтам *прымета*, і інш.

Зусім натуральна, што, усяляк падтрымліваючы жывое, патрэбнае слова, якое ідзе з народнай моватворчасці, Шкраба рашуча змагаецца з канцылярызмамі, штампамі, калі яны не на сваім месцы. У гэтым змаганні надае сілы апора на грунт народнай мовы. Звычайна ён бярэ 2 тэксты (сказы, выразы): адзін — насычаны штампамі, канцылярызмамі, другі — напісаны жывою моваю, і ставіць іх побач. У такім супастаўленні чытач, асабліва з аўтарскай падказкай, адразу бачыць заганы першага і перавагі другога варыянта. Стылістычны эксперымент выхоўвае ўвагу да слова, назіральнасць, пачуццё мовы. «Уявім сабе,— прапануе крытык,— як перадаў бы вядомую беларускую казку чалавек, які прывык пісаць газетнай мовай» (Як размаўляюць людзі // Шкраба Р. Літаратура і мова: Кн. пра майстэрства. Мн., 1969. С. 280). Далей ідзе гэты ўяўны, прыблізны тэкст (падаём скарочана): «На свеце жыў чалавек. Ён рана страціў жонку, застаўшыся з маленькай дачкой. Яна была прыгожая і любіла працу, але з прычыны малога ўзросту не спраўлялася своечасова прыбраць у хаце, не кажучы ўжо пра гаспадарку. Чалавек пасля доўгага абдумвання свайго становішча вырашыў ажаніцца яшчэ раз. Паспрабаваў ён звярнуцца да хадзячат, але з удаўцом ніхто не хацеў звязваць свой лёс...» (тамсама. С. 280—281). Адносна гэтага тэксту Шкраба заўважае: «Вы скажаце: хіба бываюць такія казкі? Што праўда, то праўда: такіх казак не бывае. Але нарысы, апавяданні і нават аповесці такой мовай пішуцца. Я вымушаны папрасіць у чытачоў прабачэння за тое, што сапсаваў пачатак казкі «Дзеўкі і чорт». Я зрабіў гэты пераказ, каб была відаць на кантрасце розніца паміж жывой і нежывой мовай... Вось як пачуў гэту казку селянін Даніла Кулеш з вёскі Чудзін Слуцкага павета: «Жыў сабе адзін чалавек. Ён рана заўдавеў і астаўся толькі з маленькай дачкою. Прыгожая да здатная на ўсялякую работу была сіротка, але, ведама, дзіця — не можа ўправіцца ў дамоўцы, не то каб яшчэ дагледзець гаспадарку. Думаў, думаў чалавек да й надумаўся жаніцца ў другі раз. Запрабаваў ён пасватаць сабе дзеўку, але куды там,— ніводная не хоча ісці за ўдаўца...» (тамсама. С. 281). Нават з гэтага, пададзенага скарочана, матэрыялу яскрава відаць, у якім ва-

рыянце мова «жывая», больш сакавітая і мілагучная.

Аналізуючы мастацкі твор, Р. В. Шкраба, як правіла, звяртае ўвагу на гучанне слова — і ў вершаваным, і ў празаічным тэксце. Сінанімічнае багацце мовы якраз і служыць стварэнню патрэбнага гукавога малюнка. Крытык піша: «Кожны пісьменнік ведае, якая залежнасць існуе паміж гучаннем слова і яго значэннем. Услухайцеся, напрыклад, у слова «халепа». Гэтак завуць мокры снег, які ідзе ў адліжны дзень. Пра яго кажуць, што ён валіць камякамі, лепіць — і вы чуеце гэта ў самім слове «халепа». А параўнайце яго са словам «пароша», у якім чуецца шорах сняжынак. Альбо вазьміце словы «завея» і «мяцеліца». Само гучанне перадае адметны «почырк» стыхій прыроды. Адна з іх вее, падвявае, а другая мяце. Вось дзе для чулага вуха вытокі вобразнасці, якую можна разгарнуць у малюнкі і метафары, абы была фантазія і адчуванне слова!» (Жывая крыніца // Шкраба Р. Скарбы: Літ.-крыт. артыкулы. Мн., 1973. С. 35—36).

Тое, што крытык падае ўзоры ўжывання слова і паказвае, як узнікае вобразнасць, мастацкасць або іншая патрэбная якасць тэксту, служыць выхаванню эстэтычнага, моўнага густу чытача, вучыць культуры чытання. Дасягненню гэтай мэты садзейнічае таксама выяўленне няўдалых у моўнамастацкіх адносінах словаўжыванняў, кантэкстаў, вобразаў.

Кола інтарэсаў даследчыка не абмяжоўваецца мастацкімі творамі. Яго хвалюе невысокі ўзровень культуры мовы некаторых школьных дапаможнікаў, тое, што ў метадычнай літаратуры запанаваў штамп, шаблон, што для навучальных мэт бяруцца тэксты, напісаныя сухою, бясколернаю моваю. Ён аператыўна адгукаецца на новыя кнігі па стылістыцы і культуры мовы, на зборнікі прыказак, прымавак, фразеалагізмаў.

Прыкметны ўклад у беларускую філалогію — кніга «Крынічнае слова» (разам з І. Р. Шкраба). Гэта першая спроба даць тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак і прымавак, якія выкарыстоўваюцца ў мастацкіх творах.

*Літ.*: Васілевіч А. Поплеч з намі // Полымя. 1989. № 3; Каўрус А. А. Мова народа, мова пісьменніка. Мн., 1989.

*А. А. Каўрус.*

## ШПІЛЕЎСКІ ПАВЕЛ МІХАЙЛАВІЧ

П. М. Шпілеўскі — вядомы этнограф, публіцыст, літаратурна-мастацкі крытык, пісьменнік і перакладчык — нарадзіўся 12 лістапада 1823 г. ў в. Шыпілавічы Любанскага раёна Мінскай вобласці. У 1837—43 гг. вучыўся ў Мінскай духоўнай семінарыі, у 1843—47 гг.— у Пецярбургскай духоўнай акадэміі, пасля заканчэння якой атрымаў званне кандыдата багаслоўя і быў прызначаны выкладчыкам славеснасці ў Варшаўскае павятовае духоўнае вучылішча. Праз 5 гадоў пераехаў у Пецярбург. Са снежня 1853 г. працаваў пакаёвым наглядчыкам у Галоўным педагагічным інстытуце, а з красавіка 1855 — настаўнікам школы. Памёр 29 кастрычніка 1861 г.

У этнаграфічных працах П. М. Шпілеўскі прыводзіў многа цікавых звестак аб лексічных, фразеалагічных, фанетычных і граматычных асаблівасцях беларускай мовы, выказваў арыгінальныя думкі пра яе паходжанне, гісторыю і межы пашырэння, спрабаваў высветліць этымалогію некаторых беларускіх слоў. Беларускай мове прысвяціў 3 спецыяльныя працы — «Слоўнік беларускай гаворкі» (1845), «Кароткая граматыка беларускай мовы» (1845) і «Нататкі беларусца пра беларускую мову», якія не публікаваліся і захоўваюцца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу. Дзве першыя працы прадстаўлены як адна, у якой «Кароткая граматыка...» выконвае функцыю разгорнутага ўступу і дае чытачу агульнае ўяўленне пра фанетычную і граматычную сістэмы беларускай мовы, а таксама дапамагае зразумець арфаграфію і арфаэпію слоў, зафіксаваных у «Слоўніку...». У прадмове аўтар адзначаў, што да складання «Слоўніка...» яго заахвоціла «любоў да радзімы і спачуванне землякам», а таксама імкненне азнаёміць навуковыя колы Расіі з беларускай мовай, якая сама па сабе і створаныя на ёй пісьмовыя помнікі, вусныя паданні, легенды і г. д. могуць даць даследчыкам багаты матэрыял для высвятлення асобных пытанняў моў, гісторыі і наогул культуры іншых славянскіх народаў, і найперш рускага, бо захоўваюць шматлікія звесткі з мінулага.

«Кароткая граматыка беларускай мовы» займае 23 старонкі вялікага фармату. Пачынаецца раздзелам пра гукі, літары і найбольш характэрныя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы. У беларускай мове аўтар вылучае 37 літар — амаль усе, што і ў рускім алфавіце, і 3 дадатковыя: *ӓ* — для абазначэння этымалагічнага *о* ў ненаціскных складах, *↓г* — для абазначэння выбухнога заднеязычнага *г*, які вымаўляецца беларусамі ў некаторых запазычаных словах, і *ŷ* — для абазначэння кароткага *у*. П. М. Шпілеўскі адзначае, што 2 апошнія літары ўзяты ім са старажытных беларускіх рукапісаў, але відазменены і для друку прапануюцца ўпершыню. У беларускай мове ён вылучаў 8 галосных літар — *а, ӓ, е, и, о, у, ŷ, я* (сюды чамусьці не ўключаны літары *і, ы, ѣ, э, ю*, хоць у беларускім алфавіце яны названы). Галосныя і зычныя ён падзяляў на простыя (абазначаюць адзін гук і на пісьме перадаюцца адной літарай) і складаныя (абазначаюць адзін гук, але на пісьме перадаюцца спалучэннем літар). Да складаных галосных адносіў *͡іо, ͡іе*. Першая з іх ужывалася са значэннем *ё*, другая — са значэннем *е* на пачатку слоў, але непаслядоўна. Да складаных зычных аднесены *дж, дз* і *тс* на той падставе, што яны «ўтвараюць як бы адзін гук». Складаная літара *тс* прызначалася для перадачы мяккага этымалагічнага *т* на канцы слоў, гэта значыць *ц*. Складаныя галосныя і складаныя зычныя ў алфавіт як асобныя літары аўтар не ўключыў. Ён пералічвае 5 разнавіднасцей беларускіх «націскаў» з графічным абазначэннем і кароткай характарыстыкай кожнага: 1) «острый» (´) — паказвае павышэнне або паніжэнне голасу ў слове: *небóга* 'бедня́к'; 2) «тяжкий» (̀) — паказвае, што галосная павінна вымаўляцца груба, цяжка: *гѐты* 'сей, этот', *бѐзъ*, 'сирень'; 3) «тупой» (˘) паказвае, што галосную трэба вымаўляць мякка: *кĕпъ* 'дурачокъ', *лĕпей* 'лучше'; 4) «облеченный» (̑)— паказвае, што галосная доўгая, яе трэба вымаўляць працяжна, як бы падвойную, і прытым глуха, асабліва калі яна на канцы слова: *таŷктси* 'толочь', *быŷ* 'былъ'; 5) «бренчастый» (↓) — ставіцца толькі над зычнай *г*, каб паказаць, што яе трэба вымаўляць звонка, як лацінскую g: *↓ганакъ* 'порог', *↓гузикъ* 'пуговица'. З прыведзеных прыкладаў відаць, што націскам у сучасным разуменні гэтага тэрміна з'яўляецца толькі першы, а ўсе астатнія ўдакладняюць гукавое значэнне асобных літар. Фанетычная частка граматыкі заканчваецца пералічэннем 22 «змяненняў» і «зрастанняў» літар. Тэрмінамі «змяненне» і «зрастанне» аўтар называў гукавыя адрозненні беларускіх слоў і граматычных форм ад аднакарэнных рускіх: *в* змяняецца на *у (вдова — удава), к* змяняецца на *ц (бабкѣ — бабцѣ), а* зрастаецца з *г (арбузъ — гарбузъ), о* зрастаецца з *в (око — воко)* і інш.

Марфалагічную частку граматыкі Шпілеўскі называе «Пра часціны мовы» і вылучае іх 10 (назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў, дзеепрыметнік, прыслоўе, прыназоўнік, злучнік, выклічнік). Кожнай часціне мовы ён адводзіць асобны раздзел, дае кароткі пералік семантычных і граматычных разрадаў, катэгорый і форм слоў. Аўтарская кваліфікацыя граматычных фактаў не поўнасцю адпавядала ўзроўню тагачаснай лінгвістыкі, а прыклады не заўсёды аб'ектыўна адлюстроўвалі характэрныя асаблівасці жывой беларускай мовы.

«Слоўнік беларускай мовы» займае 45 рукапісных старонак. У ім зафіксавана 1,5 тысячы слоў (пераважна назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў, прыслоўяў і выклічнікаў) на ўсе літары алфавіта. Гэта словы, якія потым

сталі літаратурнымі (*аблава, байка, вячэра, дзівак, кахаць, лепшы, неадчэпны, прабачэнне, ранак, суніцы, уцякач, хустка, шавец*), і словы вузкадыялектныя (*арач* — земляроб, *гойне* — цудоўна, *сказа* — недахоп, *хвайка* — люлька, *чыюк* — папугай). У слоўніку многа слоў, запазычаных з польскай мовы: *абэцадла* — азбука, буквар, *атрамант* — чарніла, *валіза* — чамадан, *зэгар* — гадзіннік, *таца* — паднос, *цына* — волава і інш. У самастойныя слоўнікавыя артыкулы вылучаны некаторыя фразеалагічныя і адвербіялізаваныя спалучэнні слоў (*гарбуза ўзяць, не ў целе, уцяжку быць, што часу*). Словы і ўстойлівыя выразы фіксуюцца з захаваннем характэрных асаблівасцей беларускага вымаўлення. Загалоўныя словы падаюцца ў зыходных формах з абазначэннем націску, пасля кожнага, акрамя дзеясловаў, адзначаецца прыналежнасць да пэўнай часціны мовы. Пры зменных словах указваюцца некаторыя іх граматычныя катэгорыі і формы: у назоўніках — канчатак роднага склону адзіночнага або множнага ліку, калі адзіночны лік назоўніку неўласцівы, у прыметніках — канчаткі жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку, у дзеясловах — стан, зваротнасць, безасабовасць, формы будучага простага і прошлага часу і дзеепрыслоўі незалежнага стану незаконченага трывання. Формы часу дзеясловаў і дзеепрыслоўяў прыводзяцца, як правіла, толькі пры незваротных дзеясловах незакончанага трывання, а вытворныя ад іх зваротныя дзеясловы і прыставачныя закончанага трывання падаюцца без гэтых граматычных форм, але з адсылкай да сваіх утваральных дзеясловаў. Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу выносяцца ў асобныя артыкулы як самастойныя словы і граматычна афармляюцца як прыметнікі. Значэнні слоў раскрываюцца рускімі перакладнымі адпаведнікамі, а пры адсутнасці іх тлумачацца па-руску апісальна. Да некаторых слоў, якія абазначаюць мясцовыя рэаліі, даюцца этнаграфічныя звесткі, якія часам перарастаюць у самастойныя этнаграфічныя нарысы пра розныя беларускія народныя павер'і і абрады, напрыклад, словы *бусел, знахар, калядаваць, шчадраваць*. Некаторыя словы забяспечваюцца этымалагічнымі даведкамі. Дададкам слоўніка з'яўляецца «Спіс імёнаў мужчынскіх і жаночых, якія не супадаюць з імёнамі рускай мовы». У ім 82 мужчынскія і жаночыя імёны (поўныя і памяншальныя) з рускімі адпаведнікамі.

«Нататкі беларусца пра беларускую мову» П. М. Шпілеўскага датаваны 1853 годам. Яны займаюць 22 старонкі вялікага фармату. Працу можна падзяліць на 3 часткі. У 1-й, абапіраючыся на звесткі старажытных летапісаў і іншыя крыніцы, аўтар дае гістарычны нарыс беларускай мовы ад старажытнасці да сярэдзіны 19 ст. Беларускую мову ён лічыць родапачынальніцай усіх сучасных славянскіх моў. 2-я частка прысвечана гісторыі вывучэння беларускай мовы. У 3-й Шпілеўскі аналізуе брашуру Ф. Галатузава «Нататкі, што датычаць беларускай гаворкі» (Мітава, 1852), дзе звяртае ўвагу на выпадкі недакладнай перадачы аўтарам на пісьме фанетычнага аблічча беларускіх слоў і няправільнай трактоўкі паходжання і значэння некаторых з іх. Насуперак афіцыйным уладам, П. М. Шпілеўскі адзін з першых заявіў пра самастойнасць беларускай мовы і пачаў усебакова вывучаць яе.

*Тв.*: Белорусские пословицы: Сб. П. Шпилевского // Изв. ОРЯС. 1853. Т. 2; Очерки Жмуди: Описание страны, её нравов, языка и песен // Пантеон. 1855. Т. 19, кн. 1.

*Літ.*: Германовіч І. К. Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навук. дзейнасці. Мн., 1985. *І. К. Германовіч.*

Першая старонка рукапіснай працы П. М. Шпілеўскага «Нататкі беларусца пра беларускую мову». 1853.

## ШУБА ПАВЕЛ ПАЎЛАВІЧ

Беларускі мовазнавец П. П. Шуба нарадзіўся 15 студзеня 1926 г. ў в. Танежыцы Слуцкага раёна. Доктар філалагічных навук (1972), прафесар (1973). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1982). У 1951 г. скончыў Мінскі педагагічны інстытут. З 1955 г.— у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, з 1961 г.— у БДУ (з 1974 г. загадчык кафедры).

П. П. Шуба — аўтар больш як 300 навуковых работ, самыя значныя з якіх прысвечаны беларускай мове, яе граматыцы і словаўтварэнню: «Прыслоўе ў беларускай мове» (1962), «Дзеяслоў у беларускай мове» (1968), «Уводзіны ў граматыку беларускай мовы» (1969), «Прыназоўнік у беларускай мове» (1971), «Лекцыі па беларускай марфалогіі» (1975) і іншыя.

У працах па граматыцы П. П. Шуба даследуе праблемы марфалогіі, тэорыі часцін мовы, функцыяніравання асобных граматычных катэгорый у сучаснай беларускай мове. Пры гэтым ён аналізуе шматлікія прыклады з мовы мастацкай літаратуры і народных гаворак, у збіранні якіх удзельнічаў пры падрыхтоўцы «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963). П. П. Шуба прапанаваў шэраг новых рашэнняў па сінтаксісе складанага сказа, у прыватнасці па аналізе ўскладненых складаных сінтаксічных канструкцый і заканамернасцей іх арганізацыі.

У працах па словаўтварэнні ўпершыню ў беларусістыцы даследчык дэталёва разглядае канфіксацыю, яе адметныя асаблівасці, а конфікс лічыць асобнай функцыянальнай дэрывацыйнай адзінкай, якая матэрыяльна складаецца з 2 або некалькіх афіксаў. Пры аналізе словаўтварэння асобных часцін мовы П. П. Шуба прапанаваў новы аспект: характарыстыкі часцін мовы як базы для ўтварэння слоў іншых часцін мовы.

Сярод яго даследаванняў па граматыцы беларускай і рускай моў, руска-беларускіх моўных узаемаадносінах, беларускай тапаніміцы і анамастыцы, методыкі выкладання беларускай і рускай моў у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах вылучаюцца вучэбны дапаможнік для студэнтаў «Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія» (1987), сааўтарскія «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы» (ч. 1—3, 1957—61), «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959), першая акадэмічная «Граматыка беларускай мовы» (т. 1—2, 1962—66), «Марфемная дыстрыбуцыя ў беларускай мове: Дзеяслоў» (1967), «Беларуская граматыка» (ч. 1, 1985), падручнікі «Беларуская мова» для 2, 3 і 4-га класаў школ з рускай мовай навучання і іншыя. Ён адзін са складальнікаў «Беларуска-рускага слоўніка» (1962), «Тлумачальнага слоўніка рускай мовы» (1975, 2 выд. 1985), «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (4 выд., 1990), «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (т. 1—5, 1977—84).

П. П. Шуба — заснавальнік і адказны рэдактар міжведамаснага рэспубліканскага штогодніка «Руская мова» (з 1980 г.), серыі манаграфій «Руская мова: тэорыя, функцыяніраванне, выкладанне» (з 1987 г.), навукова-метадычнага зборніка па праблемах выкладання рускай мовы ў ВНУ рэспублікі. Асноўныя кірункі гэтых выданняў — даследаванне моўных кантактаў, пытанні двухмоўя, функцыяніравання абедзвюх моў пры блізкароднасным двухмоўі.

*Тв.*: Пытанні словаўтварэння ў беларускай мове: Аб вызначэнні словаўтваральнага тыпу // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1958. Вып. 5; Разбурэнне сістэмы непрадуктыўных класаў дзеясловаў у сучаснай беларускай мове // Тамсама. 1961. Вып. 8; Словотворча структура групи південнобілоруських топонімів // Питання ономастики: Матеріали Респ. наради з питань ономастики. Київ, 1965; Структура ўскладненага складаназалежнага сказа // Лексікалогія і граматыка. Мн., 1969; Службовыя элементы ў беларускай тапаніміцы // Пытанні беларускай тапанімікі: Матэрыялы Першай бел. тапанім. канф. (1—3 снеж. 1967 г.). Мн., 1970; Тыпалогія складаназалежнага сказа ва ўсходнеславянскіх мовах // Лінгвістычныя даследаванні: Зб. арт. Мн., 1971; Аб зацвярдзелых зычных у беларускай мове // Весн. БДУ. Сер. 4. 1972. № 3; Русско-белорусские языковые контакты в области синтаксиса // Тамсама. 1973. № 2; Міжмоўная беларуска-руская аманімія і паранімія // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982.

*Літ.*: Піпчанка М. М., Рабчынская І. А. Педагог па прызванню і адукацыі: Да 60-годдзя з дня нараджэння П. П. Шубы // Нар. асвета. 1986. № 1.

*І. К. Германовіч.*

## ШЫМКЕВІЧ ФЁДАР СПІРЫДОНАВІЧ

Беларускі, украінскі і рускі мовазнавец, педагог, грамадскі дзеяч Ф. С. Шымкевіч (псеўданім Фёдаръ Косцѣша) нарадзіўся 15 лютага 1802 г. ў Магілёве. У сувязі з нашэсцем напалеонаўскай арміі сям'я эвакуіравалася ў Варонеж. Тут ён скончыў духоўную семінарыю, а ў 1827 г.— Кіеўскую духоўную акадэмію, дзе атрымаў ступень магістра багаслоўя і славесных навук. Працаваў выкладчыкам нямецкай мовы, намеснікам бібліятэкара Кіеўскай духоўнай акадэміі, столаначальнікам гаспадарчага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў у Пецярбургу, членам Прыказа грамадскага апекавання ў Кіеве. Памёр 3 красавіка 1843 г.

Ф. С. Шымкевіч глыбока вывучаў старажытныя і сучасныя мовы, бо паставіў сабе за мэту стварыць этымалагічны слоўнік, у якім было б паказана паходжанне слоў рускай, беларускай, украінскай і іншых славянскіх моў. Ён ведаў старажытнагрэчаскую, лацінскую, старажытнаяўрэйскую, стараславянскую мовы, новыя заходне- і паўднёваславянскія, некалькі германскіх, раманскіх і індаіранскіх. У 1840 г. вучоны прадставіў у Пецярбургскую Акадэмію навук чарнавы варыянт сваёй працы «Кранеслоў рускай мовы, параўнанай з усімі найгалоўнейшымі славянскімі гаворкамі і з дваццаццю чатырма замежнымі мовамі», якую станоўча ацаніў акадэмік А. Х. Вастокаў. Дзякуючы маральнай і матэрыяльнай падтрымцы Акадэміі навук аўтар дапрацаваў рукапіс «Кранеслова» і ў канцы 1842 г. выдаў яго ў 2 частках. У 1378 артыкулах гэтага слоўніка паказана ўтварэнне розных слоў ад першапачатковых лексічных каранёў (адсюль і назва кнігі). Сярод гэтых утварэнняў упершыню пададзена больш за 880 беларускіх слоў (з паметай «літоўска-рускае»): *вір, грамада, бліскавіца, зязюля, воміг, кяляіць, вітаць, сцяць, шчыры.* На кожныя 3 слоўнікавыя гнязды «Кранеслова» прыпадае ў сярэднім па 2 беларускія словы. Гэтым беларускі вучоны-самародак зрабіў прыкметны крок на шляху параўнальна-гістарычнага вывучэння роднасных славянскіх моў, і, па сутнасці, стварыў першы этымалагічны слоўнік з выкарыстаннем беларускіх матэрыялаў.

Ф. С. Шымкевіч даследаваў старарускія летапісы і іншыя помнікі рускай, беларускай і ўкраінскай моў і літаратур. Зямляк і сябар Ф. С. Шымкевіча вучоны І. П. Барычэўскі, які прыводзіў у парадак паперы яго пасля смерці ў Пецярбургу, быў здзіўлены, што «ўсе амаль рукапісы складаліся са слоўнікаў і кранясловаў моў, самых аддаленых паміж сабой, напрыклад санскрыцкай і беларускай» (Санкт-Петербургские ведомости. 1849. № 132. 16 чэрв. С. 528). Сярод рукапіснай спадчыны Ф. С. Шымкевіча — «Збор устарэлых славянарускіх слоў» (563 старонкі), праект укладання «Слоўніка славянскіх гаворак» (захоўваюцца ў Санкт-Пецярбургу), слоўнікі ўкраінскай, сербскахарвацкай, верхнялужыцкай, гоцкай і славенскай моў, «Нямецкая граматыка» і іншыя працы.

Ёсць важкія меркаванні, што Ф. С. Шымкевіч — аўтар такіх цікавых рукапісаў, як «Збор слоў літоўска-рускай (беларускай) гаворкі» (больш за 3000 слоў, зберагаецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі ў Мінску) і «Слоўнік украінскай гаворкі» (захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу). Шэраг дакументаў, якія маюць дачыненне да Ф. С. Шымкевіча, захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны ў Кіеве.

*Тв.*: Взгляд на российские летописи в филологическом отношении // Вестник Европы. 1830. № 8; Описание рукописей, находящихся в библиотеке Киевской академии // Тамсама. № 18.

*Літ.*: Гуліцкі М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1978; Булахов М. Г. Восточнославянские языковеды: Библиогр. словарь. Т. 1. Мн., 1976; Галас Б. К. Да пытання аб лексікаграфічнай спадчыне Ф. С. Шымкевіча // Бел. лінгвістыка. Мн., 1985. № 28.

*М. Г. Булахаў.*

**Ы** — *дваццаць восьмая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай* ы (*«еры»*). *У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала галосны гук* ы (быд-

ло, тынъ). *Лічбавага значэння не мела. У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. У сучаснай беларускай мове абазначае нелабіялізаваны галосны гук* ы *сярэдняга рада верхняга пад'ёму* (рызыка, чырвоны). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму.*

*А. М. Булыка.*

**Ь** — *дваццаць дзевятая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай* Ь *(«ер»). У стараславянскай і старажытнарускай мовах абазначала рэдукаваны галосны гук, блізкі да* е, *а на канцы слоў — мяккасць папярэдняга зычнага* (дьржати, дьнь). *Пасля падзення рэдукаваных (12—13 ст.) стала замяняцца ў сярэдзіне слоў літарай* е (держати, день). *У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала мяккасць зычных* (лебедь, письмо), *толькі ў творах канфесіянальнай літаратуры часам па традыцыі пісалася на месцы былых рэдукаваных* (сльза, тьнь). *Лічбавага значэння не мела. У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скорапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. У сучаснай беларускай мове літара* ь *(мяккі знак) выступае як змякчальны* (колькі — *«кол'к'і»,* соль — *«сол'»*) *і раздзяляльны* (браканьер — *«бракан'йэр»,* лью — *«л'йу»*) *знак. Бывае вялікая і малая.*

*А. М. Булыка.*



Паўустаў 15 ст.



Скорапіс 16 ст.



Скорапіс 17 ст.



Статута ВКЛ 1588 г.

*Чую тваю жаўруковую музыку*
*Ў скошаных травах мурожных.*
*Мова! Як сонца маё*
*беларускае,*
*Ты свецішся словам кожным.*
*Цябе і заворвалі, і закопвалі.*
*І ўсё ж нашы продкі праз гора*
*Данеслі да нас цябе,*
*родную, цёплую,*
*Жывую і непаўторную.*

Яўгенія Янішчыц



*Э — трыццатая літара беларускага алфавіта. Узнікла ў старабеларускай графіцы ў канцы 15 ст. Спачатку ўжывалася толькі ў іншамоўных словах* (экгрисевле, эксеквіе). *У многіх старабеларускіх пісьмовых помніках 16—17 ст. абазначала гук э ў іншамоўных і ўласнабеларускіх словах* (грэбля, рэестръ, стрэмя, фэстъ, шэстъ), *хоць паралельна з ёй па традыцыі выкарыстоўвалася і літара* е (декретъ, честь). *Лічбавага значэння не мела. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму (Статут Вялікага княства Літоўскага 1588). У рускую графіку ўведзена ў 1730-я гады. У сучаснай беларускай мове абазначае галосны гук э' пярэдняга рада сярэдняга пад'ёму ў націскным становішчы* (бярэзнік — *«б'арэз'н'ік»*, рэпа, на рацэ) *і незалежна ад націску ў запазычаных словах* (рэформа, эпоха), *а таксама ў першай частцы складаных слоў* (рэдказубы, шэравокі, шэсцьсот). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ЭМЗ, ЭС), як умоўнае скарачэнне слова «эра» (4 ст. да н. э.). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дваццаць шосты» (група «Э»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 8э).*

*А. М. Булыка.*

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫЯ СЛОЎНІКІ

Энцыклапедычныя слоўнікі — гэта даведачныя выданні, якія ў сістэматызаваным выглядзе адлюстроўваюць навуковую карціну свету. У адрозненне ад філалагічных даведнікаў, што апісваюць моўныя адзінкі, іх фармальныя і семантычныя ўласцівасці, у энцыклапедычныя слоўнікі ўключаецца галоўным чынам пазамоўная, экстралінгвістычная інфармацыя. Але паколькі такая інфармацыя выражаецца моўнымі сродкамі (сярод іх найважнейшую ролю адыгрывае тэрміналогія), то стварэнне разнастайных энцыклапедычных слоўнікаў і даведнікаў мае вялікае значэнне для фарміравання і нармалізацыі навуковага стылю літаратурнай мовы і яе тэрміналагічнага фонду.

Працы энцыклапедычнага характару вядомы з глыбокай старажытнасці. За 2 тысячы гадоў да н. э. ў старажытным Вавілоне была створана выключная па дакладнасці звестак матэматычная энцыклапедыя, напісаная на 44 гліняных табліцах. Узнікненне энцыклапедыі сучаснага тыпу — шматтомнага тлумачальнага даведніка па шырокім спектры навук — звычайна звязваюць са стварэннем у 1751—80 гг. у Францыі «Энцыклапедыі, ці Тлумачальнага слоўніка навук, мастацтваў і рамёстваў» у 35 тамах, якая стала не толькі носьбітам найбольш поўных ведаў сярэдзіны 18 ст., але і самым поўным словасховішчам тагачаснай французскай лексікі. У канцы 18 ст. рускі пісьменнік і журналіст М. І. Навікоў выдаў першыя расійскія тэматычныя энцыклапедычныя слоўнікі. Найбольш значнымі рускімі універсальнымі энцыклапедыямі сталі 86-томны Энцыклапедычны слоўнік Ф. А. Бракгаўза і І. А. Эфрона (1890—1907) і Энцыклапедычны слоўнік у 58 тамах братоў А. і У. Гранат (1910—48). Сусветную вядомасць набылі энцыклапедычныя працы выдавецтва «Савецкая Энцыклапедыя»: Вялікая Савецкая Энцыклапедыя (т. 1—30, 3 выд., 1970—78), Дзіцячая Энцыклапедыя (т. 1—12, 3 выд., 1971—77), галіновыя энцыклапедыі (філасофская, гістарычная, хімічная, ваенная) і інш.

Вынікам росквіту беларускай нацыі і сведчаннем сталасці беларускай мовы з'явілася выданне Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (БелСЭ; т. 1—12, 1969—75), у якой адлюстраваўся нацыянальны погляд на Сусвет. З 34 409 артыкулаў БелСЭ каля 40 % асвятляюць беларускую тэматыку, а 12-ы том цалкам прысвечаны Беларусі. Аднак і астатнія 60 % артыкулаў адлюстроўваюць пераважна погляд беларускіх вучоных-энцыклапедыстаў на закранутыя праблемы (гл. **Беларуская Савецкая Энцыклапедыя**).

На працягу 1970 — 90-х гадоў на Беларусі надрукаваны арыгінальныя і наватарскія энцыклапедычныя працы: Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя (т. 1—5, 1978—81, на беларускай мове; т. 1—5, 1979—82, на рускай мове), Энцыклапедыя прыроды Беларусі (т. 1—5, 1983—86; Сярэбраны медаль спецыялізаванага органа ЮНЕСКА), Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі (т. 1—5, 1984—87); падрыхтаваны па рэкамендацыі ЮНЕСКА першы ў свеце 8-томны Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі (1984—88; Дзяржаўная прэмія БССР 1990 г.); выдадзены: Энцыклапедыя маладой сям'і (1987; 6 выд. 1992), «Культура харчавання» (1990; 2 выд. 1993), Энцыклапедыя сельскага гаспадара (1993), Энцыклапедыя дзіцячага неўролага (1993), персанальныя энцыклапедыі «Янка Купала» (1986) і «Францыск Скарына і яго час» (1988 — на беларускай, 1990 — на рускай мовах), энцыклапедычныя даведнікі «Бульба» (1988), «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі» (1989), аднатомныя энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі» (1989), «Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945» (1990), папулярная энцыклапедыя «Здароўе» (1990), кароткі энцыклапедычны слоўнік «Слова пра паход Ігаравы» ў літаратуры, мастацтве і навуцы» М. Г. Булахава (1989) і многія іншыя. Амаль усе гэтыя выданні арыгінальныя не толькі па характары змешчаных звестак, але і па спосабах падачы інфармацыі. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова параўнаць некалькі дэфініцый з розных энцыклапедычных прац. Напрыклад, грыб *бяляк* у Энцыклапедыі прыроды Беларусі азначаецца

наступным чынам: «БЯЛЯ́К, г у б а а в е ч а я, х р у ш ч. (Albatrellus ovinus), шапкавы базідыяльны грыб з роду альбатрэлус сямейства скутыгеравых» (т. 1. С. 373). Далей ідзе інфармацыя пра час і месца вырастання гэтага грыба, спосабы яго спажывання, падрабязнае апісанне вонкавага выгляду з адпаведным малюнкам. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі слову *альтанка* дае наступнае азначэнне: «АЛЬТА́НКА, а л ь т а н а (італьян. altana), драўляная ці мураваная дэкаратыўная пабудова каркаснай (слупавой) канструкцыі для адпачынку, аховы ад сонца і атмасферных ападкаў» (т. 1. С. 95). Далей даецца інфармацыя пра час і месцы пашырэння альтанкі на Беларусі, тыпы яе пабудовы, змяшчаецца некалькі фотаздымкаў альтанак. Слова *гасцінец* у энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі» дэфініруецца наступным чынам: «ГАСЦІНЕЦ, б а л ь ш а к, т р а к т, упрадкаваны сухапутны шлях з бойкім рухам. Звычайна меў шырокую праезную частку, абмежаваную канавамі і абсаджаную абапал дрэвамі, за канавамі — *сцежкі для пешаходаў*» (с. 146). Далей прыводзяцца звесткі пра час і месца пашырэння гасцінцаў на Беларусі, спосабы іх пабудовы і тыпы, змяшчаецца малюнак паштовага гасцінца 19 ст.

Сведчаннем росквіту энцыклапедычнай справы на Беларусі з'яўляецца ўсё большая спецыялізацыя энцыклапедычных выданняў. Канец 1960 — сярэдзіна 70-х гадоў далі жыццё першай універсальнай беларускай энцыклапеды, у 1970—80-я гады быў створаны шэраг буйных рэгіянальных і галіновых энцыклапедый, канец 1980-х — 90-я гады паклалі пачатак шэрага яшчэ больш спецыялізаваных даведнікаў. Напрыклад, агульная галіновая Энцыклапедыя прыроды Беларусі стала асновай для падрыхтоўкі 1-томнай папулярнай энцыклапеды «Прырода Беларусі» (1986; 2 выд. 1989).

Пасля выдання шматтомных Энцыклапеды літаратуры і мастацтва Беларусі і Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі створаны цэлы шэраг такіх вузкагаліновых энцыклапедычных прац, як біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» (у 6 т., т. 1—3, 1992—94), энцыклапеды «Этнаграфія Беларусі» (1989), «Архітэктура Беларусі» (1993) і інш.

Стварэнне для кожнай буйной галіны ведаў такіх спецыялізаваных выданняў энцыклапедычнага характару закладвае трывалы падмурак для новага выдання універсальнай беларускай энцыклапеды.

Значныя адрозненні паміж існуючымі беларускімі энцыклапедыямі паводле аб'ёму, шырыні ахопленай тэматыкі і прынцыпаў падачы энцыклапедычнай інфармацыі робяць актуальнай праблему класіфікацыі энцыклапедычных слоўнікаў. Так, у шырокім сэнсе ўсе энцыклапедычныя выданні, што ў сістэматызаваным выглядзе адлюстроўваюць навуковую карціну свету, называюцца энцыклапедычнымі слоўнікамі. У адрозненне ад іх філалагічныя слоўнікі паказваюць чыста моўную карціну свету праз апісанне рознаўзроўневых моўных адзінак. У больш вузкім сэнсе ўсе энцыклапедычныя выданні падзяляюцца на энцыклапеды, энцыклапедычныя даведнікі і слоўнікі. У залежнасці ад аб'ёму энцыклапеды ўмоўна дзеляць на вялікія (некалькі дзесяткаў тамоў), малыя (10—12 тамоў), кароткія (4—6 тамоў) і 1—3-томныя, якія звычайна называюць энцыклапедычнымі слоўнікамі. Паводле шырыні ахопленай тэматыкі сярод энцыклапедый вылучаюць універсальныя (12-томная БелСЭ), рэгіянальныя (Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя ў 5 тамах) і галіновыя (большасць існуючых беларускіх энцыклапедый). Паводле прынцыпаў падачы інфармацыі энцыклапедычныя выданні падзяляюць на алфавітныя (такіх пераважная большасць) і сістэматычныя (12-ы том БелСЭ, аднатомнік «Беларуская ССР», Энцыклапедыя маладой сям'і, пабудаваныя паводле тэматычнага прынцыпу).

*Літ.*: Ш м у ш к и с Ю. Е. Советские энциклопедии. М., 1975; К и с е л е в с к и й А. И. Языки и метаязыки энциклопедий и толковых словарей. Мн., 1977; Г у д о в ш и к о в а И. В., Т е р е х о в И. М. Энциклопедия // Книговедение: энцикл. словарь. М., 1982.

*В. К. Шчэрбін.*

## ЭТНАЛІНГВІСТЫКА

Этналінгвістыка (грэч. éthnos народ і франц. linguistigue навука пра мову) — раздзел мовазнаўства, які вывучае мову ў яе адносінах да культуры народа, «адлюстраванні ў мове культурных, народна-псіхалагічных і міфалагічных уяўленняў і «перажыванняў» (Т о л с т о й Н. И. Некоторые проблемы и перспективы славянской и общей этнолингвистики // Изв. АН СССР. Сер. лит. и языка. 1982. № 5. С. 404). Аб'ектам даследавання этналінгвістыкі з'яўляюцца моўныя адзінкі (словы, фразеалагічныя звароты, прыказкі і прымаўкі), значэнне якіх звязана з рознымі бакамі народнага светапогляду, народнай духоўнай культуры — абрадамі, звычаямі, вераваннямі, прыкметамі, уяўленнямі людзей пра навакольнае асяроддзе, жывёльны і раслінны свет.

Некаторыя словы беларускай мовы маюць адзінае значэнне, звязанае з разнастайнымі вераваннямі і ўяўленнямі. Так, *ваўкалак*, паводле паданняў,— гэта чалавек, здольны абарачацца ў ваўка; пярэварацень. Вельмі пашыраным было ўяўленне, што ваўкалакамі з'яўляюцца ўдзельнікі вясельнага шэсця. Ваўкалакам мог стаць і чараўнік, калі ён «перакінецца» цераз забітыя ў зямлю нажы або асінавыя калкі. Слова *залом* вядома ў значэнні 'зблытаны і заламаны чараўніком пук жытніх сцяблоў, які мог наклікаць бяду на гаспадара нівы'. Лічылася, што нават дакрананне да залому, не гаворачы пра тое, каб яго нехта зжаў або з'ела скаціна, наклiча бяду (хваробу або нават смерць) на чалавека ці жывёлу. Адначасова існавалі і магічныя спосабы ўздзеяння на залом з мэтай яго абясшкоджання.

Большасць слоў, якія вывучаюцца ў этналінгвістыцы — полісемічныя. Так, *пятніца* як 5-ы дзень тыдня лічылася не звычайным, а нешчаслівым і нават небяспечным днём, калі абавязкова захоўваўся пост і звязаныя з ім забароны. У пятніцу забаранялася прасці, пячы хлеб, купаць дзяцей; верылі, што той, хто не прытрымліваецца ў пятніцу посту, можа патануць. Устойлівае параўнанне *гарыць як у пятніцу* (пра сырыя дровы) справядліва звязваецца з пятніцай — посным днём, калі печ палілі не на поўную сілу. Існавала вера і ў *Пятніцу* — міфалагічную істоту (старую, худую, з распушчанымі валасамі жанчыну ў падранай вопратцы), якая прыходзіць да тых, хто не выконвае «пятнічных» забаронаў, і жорстка карае за гэта (у іншых выпадках толькі просіць прытрымлівацца «веры ў Пятніцу»). Разнастайныя асацыяцыі звязаны са словам *певень*. Паводле распаўсюджаных вераванняў, гэта птушка, спеў якой атаясамліваецца са світанкам, сонцам, адганяе злых духаў, яе баяцца чараўнікі і ведзьмы. Параўнайце: *Меў чорт нарадзіцца, ды певень запеў*. Спеў пеўня наогул лічыцца добрай прыкметай. Певень спявае на дарогу «пра ўдачу». У выразе *пусціць чырвонага пеўня* 'запаліць, спаліць што-небудзь' адлюстравалася сувязь гэтай птушкі (яе чырвонага грэбеня) з полымем. Старажытныя язычнікі ўшаноўвалі пеўня як прадстаўніка Перуна і хатняга вогнішча і як сімвал шчасця і ўрадлівасці. На вяселлі маладым дарылі жывога пеўня — сімвал пладавітасці.

У асобных выпадках этналінгвістычныя звесткі дапамагаюць больш аб'ектыўна вызначыць паходжанне слоў. Так, слова *дзед* (мн. лік *дзяды*) у значэнні 'пустазелле з калючым лісцем і сцяблом' некаторымі вучонымі тлумачыцца на аснове падабенства калючак гэтай расліны з няголенай барадой старога чалавека. Аднак больш верагодным з'яўляецца меркаванне пра сувязь гэтага слова са старажытным культам памінання продкаў — дзядоў (словам *дзяды* называецца абрад памінання нябожчыкаў, а таксама дзень, калі выконваўся гэты абрад). Калючае пустазелле называлі словам *дзед* па той прычыне, што яго выкарыстоўвалі ў якасці за-

сцярогі ад «нячыстай сілы»: снапы, пучкі гэтай расліны вешалі каля варот або дзвярэй хаты, хлява, каб адагнаць варожых духаў. Такім чынам, слова *дзед* 'калючая расліна' звязана з гэтым жа словам у значэнні 'продакнябожчык, добры дух, які аберагае чалавека'. Не выпадкова гэта расліна называецца таксама *чартапалохам, чартагонам.*

Слова *дзед* сустракаецца ў народных гаворках і ў іншых значэннях, таксама звязаных з культам продкаў: *дзед* — прыстасаванне, у якое ўтыкалася лучына для асвятлення хаты (тут нельга не бачыць яскравай глыбокай сімволікі — дзед-продак, які падтрымлівае, зберагае агонь); *дзед* — першы сноп жыта (яго заносілі ў хату, ставілі на пачэсным месцы, зерне з гэтага снапа выкарыстоўвалі ў першы дзень веснавой сяўбы для забеспячэння ўраджаю); *дзед* — слуп, які падпірае бэлькі ў гумне.

Прадметам этналінгвістыкі з'яўляюцца і многія фразеалагічныя адзінкі. Напрыклад, у звароце *выносіць смецце з хаты* 'рабіць вядомым тое, чаго не павінны ведаць іншыя' захаваны старажытныя ўяўленні людзей пра тое, што пакідае пасля сябе чалавек. Паводле гэтых уяўленняў, рэшткі ежы, смецце, пыл, нават бруд (ад абутку, вопраткі) як частка чалавека, як тое, на чым застаўся яго след і да чаго ён дакранаўся, ні ў якім выпадку нельга выносіць за межы дома, які аберагаецца продкамі. У адваротным выпадку на чалавека могуць адмоўна ўплываць ведзьмы, чараўнікі і ўвогуле «нячыстая сіла», якая будзе насылаць розныя непрыемнасці, дрэннае адчуванне, хваробу і нават смерць. Рэшткі старажытнага звычаю-забароны не выносіць смецце з хаты захаваліся да нашых дзён: і зараз у дзень ад'езду гасцей з дому гаспадары не вымятаюць смецце з хаты, не мыюць посуд і падлогу.

У апошні час этналінгвістыка атрымала значнае развіццё. З пачатку 1970-х гадоў вучоныя Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Расійскай АН пад кіраўніцтвам акадэміка М. І. Талстога вядуць актыўную работу па зборы і навуковым апісанні звестак пра народную духоўную культуру Палесся, у тым ліку і Беларускага. Да гэтай важнай работы далучыліся выкладчыкі, супрацоўнікі і студэнты вышэйшых навучальных і навуковых устаноў Беларусі — Белдзяржуніверсітэта, Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі, Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францыска Скарыны, Мазырскага педагагічнага інстытута. На аснове створанай вучонымі «Праграмы Палескага этналінгвістычнага атласа» ўжо сабраны багаты фактычны матэрыял — словы, састаўныя тэрміны і ўстойлівыя спалучэнні слоў, звязаныя з народнымі звычаямі, паданнямі і абрадамі. Значная частка гэтага матэрыялу апублікавана, па этналінгвістычнай тэматыцы рэгулярна праводзяцца навуковыя канферэнцыі, сімпозіумы і нарады.

Роля і каштоўнасць этналінгвістычных даследаванняў асабліва выраслі ў 1980—90-я гг., калі ідзе абуджэнне нацыянальнай свядомасці народа, назіраецца вялікая цікавасць да нацыянальнай гісторыі, да светапогляду нашых далёкіх продкаў.

*Літ.:* Полесский этнолингвистический сборник: Материалы и исследования. М., 1983; Толстая С. М. Терминология обрядов и верований как источник реконструкции древней духовной культуры// Славянский и балканский фольклор: Реконструкция древней слав. духовной культуры: Источники и методы. М., 1989; Толстой Н. И. Некоторые проблемы и перспективы славянской и общей этнолингвистики // Изв. АН СССР. Сер. лит. и языка. 1982. № 5; Яго ж. О предмете этнолингвистики и ее роли в изучении языка и этноса // Ареальные исследования в языкознании и этнографии: (Язык и этнос): Сб. науч. трудов. Л., 1983. *У. І. Коваль.*

## ЭТНАНІМІКА

Этнаніміка (ад грэч. éthnos племя, народ+ónyma імя, назва) — раздзел анамастыкі (гл. **Анамастыка**), у якім вывучаюцца этнічныя найменні, іх паходжанне, распаўсюджанне, функцыяніраванне, структурна-словаўтваральныя асаблівасці. Тэрмін «этнаніміка» трэба адрозніваць ад тэрміна «этнанімія», пад якім разумеюць сукупнасць этнонімаў, што ўжываюцца на той ці іншай тэрыторыі. Матэрыялам для даследавання ў этнаніміцы, такім чынам, з'яўляюцца этнонімы.

У сучаснай літаратуры існуе мноства разуменняў тэрміна «этнонім» — ад абазначэння нацый (*чэхі, беларусы, шведы*) да называння жыхароў якой-небудзь вёскі іх суседзямі (*вадахлёбы, вiдзюны, кугаі, дразды, сакуны, таўкачы, аўцюкі, каўтуны, ёвічы*). Некаторыя даследчыкі ставяць пад сумненне прыдатнасць тэрміна «этнонім» у адносінах да так званых суперэтнічных цэласнасцей тыпу германцы, славяне, кельты, раманцы ці этнапалітычных арганізмаў, якія складаюцца з розных нацыянальных груп (бельгійцы, індыйцы, швейцарцы, югаславы і пад.). З пункту гледжання этнолагаў, этнографаў і дэмографаў гэта пярэчанне цалкам справядлівае. Але з лінгвістычнага пункту гледжання ўсе найменні такога тыпу зручней аб'ядноўваць тэрмінам «этнонім». Таму не выпадкова ў большасці прац па этнаніміцы пад этнонімам разумеецца абазначэнне кожнага этнасу — роду, племені, саюза плямён, народнасці, народа, нацыі. У некаторых сучасных працах (Я. А. Левашоў) як сінонім да тэрмінаў «этнаніміка», «этнанімія» выкарыстоўваецца тэрмін «патраніміка» [ад грэч. patēr (patros) бацька+ónyma імя], пад якім разумеецца сукупнасць назваў асоб па месцы (мясцовасці) іх паходжання ці жыхарства (*кастраміч, табаляк, калужанін, далёкаўсходнік*), а таксама раздзел лексікалогіі, які іх вывучае; у больш шырокім сэнсе патраніміка ахоплівае назвы асоб паводле нацыянальнай прыналежнасці (*амерыканец, француз, балгарын*).

Этнаніміка — лінгвістычная галіна, таму ў працах па этнаніміцы выкарыстоўваюцца галоўным чынам агульналінгвістычныя метады даследавання. Аднак набор спосабаў і прыёмаў пры канкрэтных этнанімічных даследаваннях у кожным выпадку залежыць ад характару аб'екта, які вывучаецца, і задач, якія ставіць даследчык. Таму пры разглядзе этнонімаў могуць выкарыстоўвацца спецыяльныя анамастычныя метады. Сярод іх — інвентарызацыя этнанімічнага матэрыялу (выяўленне форм, якія фіксуюцца на пэўнай тэрыторыі ў жывой гаворцы, пісьмовых дакументах ці ў геаграфічных найменнях); стратыграфічны аналіз (вызначэнне часу з'яўлення імя і яго фіксацыі ў пісьмовых помніках, супастаўленне этапаў станаўлення этнанімічнай сістэмы, параўнанне этнонімаў розных эпох); выяўленне этнанімічных універсалій (даследаванне агульных прынцыпаў намінацыі ў этнаніміі розных народаў, вызначэнне тых прыкмет, па якіх адбываецца называнне); структурны аналіз (выяўленне этнанімічных мадэляў); словаўтваральны аналіз (вызначэнне асобных частак імя — этнанімічных асноў і фармантаў). Словаўтваральны аналіз у этнаніміцы (як і ў анамастыцы ў цэлым) цесна звязаны з этымалагічным аналізам імя.

Паходжанне і гісторыя этнонімаў разам з этнанімічным картаграфаваннем (дакладнае вызначэнне мясцін рассялення людзей — носьбітаў адпаведных этнічных імёнаў) цікавяць не толькі лінгвістаў, але і прадстаўнікоў сумежных навуковых дысцыплін — гісторыкаў, археолагаў, этнографаў, географаў.

Найбольш важным з'яўляецца даследаванне этнонімаў на тых тэрыторыях, дзе ў мінулым адбываліся складаныя і разнастайныя этнагенетычныя працэсы, моўныя кантакты, перасяленні плямён і народаў. Вялікую цікавасць мае этнанімія, зафіксаваная на тэрыторыі Беларусі. У розныя гістарычныя перыяды тут адбываліся кантакты паміж носьбітамі славянскіх, балтыйскіх, фіна-угорскіх, цюркскіх, іранскіх па паходжанні этнічных найменняў. У выніку многія з этнонімаў зафіксаваліся ў мове мясцовага насельніцтва і выкарыстоўваюцца цяпер (*рускія, татары, літоўцы, латышы, немцы, палякі, чэхі, балгары*) разам, зразумела, са шматлікімі іншымі сучаснымі этнічнымі найменнямі (*грэкі, нарвежцы, карэлы, ханты,*

*кітайцы)*, носьбіты якіх да тэрыторыі Беларусі прамога дачынення не мелі. Некаторыя этнанімічныя формы ўстарэлі і таму выйшлі з актыўнага ўжытку, а на змену ім прыйшлі іншыя [*літвякі* — літоўцы; *русакі, русіны, маскалі, маскалькі, маскалюкі* — рускія; *валынцы, чаркасы* — украінцы; *ляхі* — палякі; *курляндзікі* (жыхары паўднёва-заходняй часткі Латвіі, якая ў мінулым называлася Курляндыяй) — латышы]. Нарэшце, шэраг этнонімаў застаўся ў гісторыі, бо ўжо не існуюць адпаведныя плямёны і народы (балцкія — *ятвягі, ятвезь, зімягола, дайнава, селы, прусы, голядзь, куршы, скалвы, борці*; славянскія — *дулебы, славені, крывічы, радзімічы, дрыгавічы, драўляне, севяране, сеўрукі, палачане*; цюркскія — *булгары, хазары, полаўцы* і іншыя).

Асаблівую цікавасць выклікаюць 78 этнічных найменняў і іх форм, якія адлюстраваліся ў тапаніміі Беларусі (гл. **Тапаніміка**): *борці (борцы), балгары, булгары, відзы, волахі, валынцы, голядзь, гуды, дайнава (дайнова, дойнеўцы), дулебы, жамайты (жамайтукі, жамайдзякі, жмуйдзякі, жомайдзі, жомайдзь, жэмойдзь), земгалы (зімягола), касогі, кашубы, крывічы, курляндзікі, куршы (корсь), латыгала (латыголь, латыгаль), латышы, ліпяне (ліпляне), літва, літвіны (ліцвіны), літвякі (ліцвякі), літоўцы, лотва, лотвіны (латвіны), ляхі, мазуры, маскалі (маскалькі, маскалюкі), наўры (наровы), немцы, нудзічы, обры, падаляне, полаўцы, палачане, палякі, прусы, рускія (русакі, русіны), селы, сеўрукі, скалвы, славені, славяне, слянзакі, татары, угры, цыганы, чаркасы, черкесы, чэхі, чудзь, чухна, швабы, ятвягі (ятвезь)*. Ад названых этнанімічных форм на тэрыторыі Беларусі ўтварылася каля 400 тапонімаў, якія з'яўляюцца найменнямі больш чым 760 населеных пунктаў рэспублікі. Геаграфічныя назвы, якія ўтварыліся ад этнонімаў, называюцца э т н а т а п о н і м а м і. Асобныя этнанімічныя асновы выяўляюцца ў вялікай колькасці тапонімаў Беларусі: *літв- (літоў-)* — у 33 геаграфічных назвах, якія служаць для абазначэння 83 населеных пунктаў; *латыш- (лотв-, латв-)* — адпаведна 23/48; *лях-* — 20/73; *татар-* — 14/47; *прус-* — 17/26; іншыя рэалізуюцца ў значна меншай колькасці этнатапонімаў, нярэдка ў адзінкавых назвах: *чэх* — 4/15; *немец- (немц-)* — 6/7; *угр-* — 5/5; *дулеб-* — 4/4; *кашуб-* — 1/2; *касог-* — 1/1. Этнатапонімамі з'яўляюцца, напрыклад, наступныя геаграфічныя найменні: *Ляхаўцы* (Маларыцкі раён), *Русакі* (Глыбоцкі раён), *Латыгаль* (Сенненскі раён), *Прусы* (Пастаўскі раён), *Татары* (Міёрскі раён), *Дулебы* (Бярэзінскі раён), *Лотва* (Мядзельскі раён), *Палачанка* (Валожынскі раён), *Чухны* (Смаргонскі раён), *Дайнова* (Астравецкі раён), *Літвіца* (Воранаўскі раён), *Маскалёўцы* (Дзятлаўскі раён), *Сеўрукі* (Гомельскі раён), *Чэхі* (Нараўлянскі раён), *Ляхаўшчына* (Чавускі раён), *Булгары* (Асіповіцкі раён), *Прусінская Буда* (Касцюковіцкі раён), *Крывічы* (Зэльвенскі раён), *Чудзяны* (Чэрыкаўскі раён), *Валынцы* (Кармянскі раён) і іншыя.

Вельмі цікавая гісторыя тых этнонімаў, якія адносяцца да карэннага насельніцтва Беларусі. Этнонім *беларусы (беларусцы)* ва ўласна этнічным значэнні адзначаецца ў пісьмовых крыніцах з канца 16 ст. У 16 — першай палове 17 ст. гэты этнонім выкарыстоўваўся і ў другасным этнічным значэнні — *беларусцамі* рускія і ўкраінцы часам называлі польскае і літоўскае насельніцтва, якое жыло на сучаснай беларускай тэрыторыі. У 14—16 ст. на тэрыторыі Беларусі быў шырока распаўсюджаны этнонім *русіны* ў значэнні «беларусы» (асабліва ва ўсходніх раёнах). Ён выкарыстоўваўся таксама для абазначэння ўкраінскага насельніцтва ў паўднёвых раёнах Беларусі, якое атаясамлівалася з беларусамі па канфесіянальнай прыкмеце. У 15—16 ст. *русінамі* паступова пачалі называць усё праваслаўнае насельніцтва Беларусі ў адрозненне ад каталіцкага, якое называлі *літвінамі* (пераважна ў заходніх раёнах). Дарэчы, *літвінамі* часам называлі ўсё насельніцтва Вялікага княства Літоўскага (асабліва ў 17—19 ст.). Гэта найменне ўкраінцамі і рускімі давалася не па нацыянальнай, а па дзяржаўна-палітычнай прыкмеце. У 17—18 ст. этнонім *русіны* страчвае значэнне «беларусы» і знікае. Аднак на змену яму хутка прыходзіць новая форма — *рускія*, якая пачала функцыяніраваць як найменне насельніцтва па канфесіянальнай прыкмеце і набыла значэнне «праваслаўныя», асабліва ў канцы 18 ст. пасля далучэння Беларусі да Расіі. Этнонім *рускія* з канца 17 — пачатку 18 ст. адносіўся таксама і да ўласна рускага насельніцтва Беларусі, якое ў 16—19 ст. называлі яшчэ *маскалямі, маскалюкамі, маскалькамі*.

У цэнтральнай і ўсходняй частках Беларускага Палесся да канца 16 — пачатку 17 ст. для абазначэння мясцовага насельніцтва выкарыстоўваўся агульны этнонім *русіны* (з варыянтам — *чарнарусы*), а таксама шэраг мясцовых найменняў — *тураўцы, мазыране, рэчычане, лучане, піняне* — у залежнасці ад таго, побач з якім населеным пунктам жыла тая ці іншая група палескіх жыхароў.

У 17 ст. пісьмовыя крыніцы пачынаюць фіксаваць этнонім *палешукі*, які першапачаткова выкарыстоўваўся для наймення нашчадкаў плямён драўлян і бужан. Не выпадкова найменне *палешукі* («жыхары лесу», «лесавікі») прыйшло на змену больш старому этнічнаму найменню *драўляне, дзерэўляне* (таксама «жыхары лесу», «лесавікі»). Палешукоў у 19 ст., а магчыма і раней, называлі яшчэ *бужанамі* і *пінчукамі*. Палешукі займалі большую частку сучаснай Брэсцкай вобласці (акрамя самых паўночных яе раёнаў) і тую частку сучаснай Гомельскай вобласці, якая размешчана на поўдзень ад Прыпяці. На поўнач ад *палешукоў* жылі *літвіны*. Так палешукі называлі сваіх паўночных суседзяў.

У заходніх раёнах Беларускага Палесся ў 14—16 ст. дакументы фіксуюць этнонім *палясяне (падлясяне)*, які ўзыходзіць да наймення асіміляваных груп ятвяжскіх плямёнаў, якія ў сярэдзіне 18 ст. ратаваліся ад крыжакоў і безупынных набегаў польскіх дружын у так званае Падляшша (Падлясе), у склад яго ўваходзілі і заходнія раёны сучаснай Брэстчыны.

Гістарычная этнанімія Беларусі, такім чынам, з'яўляецца адной з найважнейшых крыніц для вывучэння мінулага роднага краю.

*Літ.:* Г р и н б л а т М. Я. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968; Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. Мн., 1985; Ч а к в і н І. У. Гістарычная этнаніміка Палесся // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 4; Р о г а л е в А. Ф. Этнические имена в топонимии Белоруссии // Весн. БДУ. Сер. 4. 1986. № 2; Я г о ж. Крывіцкія «сляды» ў тапаніміі Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 3; Я г о ж. Этнонім *волахі* ў тапаніміі Беларусі // Весн. БДУ. Сер. 4. 1988. № 1; Я г о ж. Сцежкі ў даўніну: Геагр. назвы Бел. Палесся. Мн., 1992; Я г о ж. Этнотопонимия Беларуси (на фоне этнической истории). Гомель, 1993; А г е е в а Р. А. Страны и народы: Происхождение названий. М., 1990.

*А. Ф. Рогалеў.*

## ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

Этымалагічны слоўнік — тып лінгвістычнага слоўніка, у якім даюцца вынікі параўнальна-гістарычнага даследавання лексікі пэўнай мовы, раскрываецца паходжанне слоў. Такая праца можа быць слоўнікам слоў, або архетыпаў. Да першых належаць слоўнікі моў, прадстаўленых у кніжных і дыялектных формах; да другіх — слоўнікі моў, не зафіксаваных ні ў помніках, ні ў дыялектах. Веданне незафіксаваных моў рэалізуецца шляхам рэканструкцыі слоў і словаўтваральных фармантаў і іх значэнняў. Да этымалагічных слоўнікаў, у якіх выкарыстаны жывы фонд тэрытарыяльных і сацыяльных дыялектаў, належаць «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (выдаецца з 1978 г.), «Этымалагічны слоўнік украінскай мовы» (у 7 т., т. 1—3, Кіеў, 1983—89) і падобныя. Да этымалагічных слоўнікаў, якія прадстаўлены толькі лексікай помнікаў, адносяцца «Падручны слоўнік да старацаркоўна-славянскіх тэкстаў» (Гейдэльберг, 1955), «Этымалагічны слоўнік старaславянскай

мовы» (т. 1—2, Прага, 1989—90) і пад. Слоўнікамі архетыпаў з'яўляюцца «Праславянскі слоўнік» (Вроцлаў і інш., выдаецца з 1974), «Этымалагічны слоўнік славянскіх моў» (вып. 1—18, М., 1974—92), «Балта-славянскі слоўнік» (Гётынген, 1923), «Індаеўрапейскі этымалагічны слоўнік» (т. 1—2, Берн, 1949—69) і інш.

«Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» — шматтомная праца, у якой для вырашэння праблем паходжання беларускіх слоў улічваюцца ўся даступная лексіка з яе дыялектнымі варыянтамі формы і значэння, усе навукова абгрунтаваныя этымалагічныя версіі, неабходная літаратура з гістарычным і геаграфічным каментарыямі (дзе гэта патрэбна).

Да гэтага часу выдадзены 8 тамоў слоўніка (1978—93). У стварэнні асобных тамоў удзельнічалі І. І. Лучыц-Федарэц, В. У. Мартынаў, Р. У. Краўчук, Г. А. Цыхун, А. Я. Супрун, В. Д. Лабко, Р. М. Малько, А. Я. Міхневіч, Н. В. Івашына.

Адна з найгалоўнейшых задач слоўніка — этымалагічны разгляд беларускага моўнага ландшафту ў сукупнасці яго тыповых прыкмет.

Гэта задача застаецца нявырашанай нават для тых моў, якія даўно ўжо маюць этымалагічныя слоўнікі. Большасць такіх слоўнікаў, прысвечаных апісанню жывых моў, арыентуюцца на старажытны, прамоўны пласт лексікі, а больш позпія працэсы толькі зрэдку знаходзяць у іх сваё адлюстраванне. Недастаткова, напрыклад, распрацавана словаўтварэнне. Між тым якраз праз словаўтваральныя і семантычныя дэталі найбольш глыбока высвятляецца спецыфічны этымалагічны ландшафт мовы. Калі гэтыя аспекты застаюцца па-за ўвагай, то атрымліваецца не этымалагічны слоўнік жывой мовы, а гібрыд слоўніка прамовы і гістарычнага слоўніка.

«Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», апрача дэталёвага апісання словаўтварэння і семантыкі, адлюстроўвае ўсе даступныя звесткі пра геаграфічную стратыфікацыю лексікі (распаўсюджанне ў прасторы і часе пэўных моўных з'яў). Сучасная лінгвагеаграфія (гл. **Лінгвагеаграфія**) выкарыстоўвае магчымасці геаграфіі для фіксацыі прасторавага размеркавання моўных з'яў і ў такім выглядзе, застаючыся цалкам апісальнай, не мае эўрыстычнага (эўрыстыка — ад грэч. heurisko адшукваю, адкрываю) значэння. Але лінгвістычная геаграфія можа быць выкарыстана для даследавання этнагенезу носьбітаў мовы і для канкрэтнай этымалагічнай працы. Яна не толькі дапамагае вырашаць класічныя задачы этымалогіі, але стварае магчымасці для пастаноўкі новых, не традыцыйных у этымалогіі задач.

Традыцыйна асноўнай мэтай этымалагічнага даследавання лічыцца вызначэнне этымона, або рэканструкцыя першаснага значэння лексемы і першаснай формы, калі яны істотна змяніліся. Так складаецца структура артыкула ў этымалагічным слоўніку. Аднак гэта задача не заўсёды можа быць вырашана дастаткова надзейна, паколькі існуе магчымасць шматразовай дээтымалагізацыі слова (страты першасных сувязей формы і значэння) і розных кантамінацыйных працэсаў, асабліва ў галіне экспрэсіўнай лексікі. Пошукі этымона абапіраюцца на вопыт параўнальнай семантыкі, але, як правіла, не ўлічваецца фіксацыя слова ў прасторы і часе. Дакладнае вызначэнне этымона магчыма толькі пасля вырашэння пытання аб прасторава-часавых каардынатах адпаведнай лексічнай адзінкі.

Пры вызначэнні этымона абапіраюцца таксама на вядомы прынцып: перш чым звярнуцца да іншамоўных крыніц, трэба растлумачыць слова на аснове ўнутраных сродкаў той моўнай глебы, дзе яно зафіксавана. Аманімічная варыятыўнасць стварае такія шматлікія магчымасці для вызначэння этымалогіі слова, што не заўсёды даводзіцца звяртацца да іншамоўных крыніц. Аднак пажадана пачынаць даследаванне з разгляду лінгвагеаграфічнага крытэрыя. Прымаючы пад увагу складанасць праблемы, стварэнню этымалагічнага слоўніка беларускай мовы папярэднічаў шэраг сімпозіумаў, прысвечаных лексічным сувязям беларускай мовы з усімі суседнімі (балтыйскімі, польскай, украінскай, рускай). Гэты вопыт дапамог стварэнню этымалагічных артыкулаў слоўніка на аснове рэгулярных для ўсіх моў міжмоўных кантактаў.

*Літ.:* Лексічныя балтызмы ў беларускай мове. Мн., 1969; Беларуска-ўкраінскія ізалексы. Мн., 1971; Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мн., 1971; Беларуска-рускія ізалексы. Мн., 1973; Беларуска-польскія ізалексы: (Матэрыялы для абмеркавання). Мн., 1975; Мартынов В. В. Язык в пространстве и времени: К пробл. глоттогенеза славян. М., 1983.

*В. У. Мартынаў.*



«Этымалагічны слоўнік беларускай мовы». Т. 1—8. 1978—93.

## ЭТЫМАЛОГІЯ

Этымалогія — галіна мовазнаўства, якая вывучае паходжанне слоў. Яна прадугледжвае рэканструкцыю слоў або словаўтваральных марфем. Глыбіня гэтай рэканструкцыі залежыць ад таго, якая мова з'яўляецца аб'ектам этымалагічнага вывучэння: сучасная, старажытная або прамова. Апошняя сама існуе толькі ў стане рэканструкцыі. У адпаведнасці з гэтым ствараецца этымалагічны слоўнік (гл. **Этымалагічны слоўнік**) сучаснай мовы

(напрыклад, беларускай, рускай, украінскай, нямецкай, англійскай і г. д.), старажытнай мовы (напрыклад, лацінскай, грэчаскай, старажытнаіндыйскай і г. д.), прамовы (напрыклад, праславянскай, балтаславянскай, індаеўрапейскай, настратычнай).

Словы могуць быць спрадвечнымі і запазычанымі. Што датычыцца першых, то этымалогія даследуе, калі яны ўзніклі: на глебе дадзенай мовы (напрыклад, беларускай), прамовы моўнай сям'і (напрыклад, славянскай), больш старажытнай прамовы (напрыклад, балта-славянскай, індаеўрапейскай, настратычнай). Запазычаныя словы цікавяць даследчыкаў з пункту погляду маршруту запазычання ( з суседняй мовы, праз яе, з больш аддаленых), а таксама вызначэння іх першаснай крыніцы. Пры гэтым трэба адрозніваць запазычанне ад пранікнення (інфільтрацыі) слоў. Запазычанне можа быць вынікам культурнага ўплыву, калі запазычаные слова з'яўляецца носьбітам новага абстрактнага або канкрэтнага паняцця (назвы рэаліі). Пранікненне мае іншыя прычыны, звязаныя ў першую чаргу са стварэннем на мяжы 2 моўных зон двухмоўнай прасторы. У працэсе лексічнага пранікнення прымае ўдзел і экспрэсіўная лексіка. Вывучэнне лексічных пранікненняў складае надзвычай важны аспект этымалогіі, бо праз іх можна вызначыць геаграфію моў, а разам з ёй геаграфічнае распаўсюджанне іх носьбітаў.

Калі мова вывучаецца ў прасторы і часе, узнікае магчымасць выкарыстання яе характарыстык гісторыкамі. Этымалогія якраз і дае такую магчымасць. Вядома, што шэраг моў, этымалагічны ландшафт якіх дастаткова вывучаны, дае вялізны матэрыял, якім можа карыстацца гісторык.

Беларуская мова, як і іншыя сучасныя мовы, мае значную колькасць слоў, каранёў, словаўтваральных сродкаў, якія ўзыходзяць да розных перыядаў моўнага развіцця. І для этымалагічнага ландшафту дадзенай мовы істотным з'яўляецца прасторавачасавае размеркаванне гэтых элементаў адносна іншых славянскіх моў. Асаблівую цікавасць выклікаюць вузкарэгіянальныя рэліктавыя ўтварэнні тыпу беларускага (рэчыцкага) *шума* 'лес' (параўнайце ў гэтым самым значэнні беларускае *шума*, сербскахарвацкае *шума* і г. д.). Паўднёваславянскія паралелі гарантуюць яго праславянскую старажытнасць. Калі ўлічваць такія лакальна абмежаваныя архаізмы, абсяг праславянскай лексікі ў беларускай мове рэзка павялічыцца, а аналіз вузкарэгіянальных рэліктавых утварэнняў дасць магчымасць выдзеліць у межах беларускай моўнай тэрыторыі зоны лексічнай кансервацыі. Такой зонай з'яўляецца Усходняе Палессе. Этымалагічны аналіз беларускай лексікі выяўляе і іншыя архаічныя зоны, у прыватнасці віцебскую, якая шчыльна прылягае да паўднёвапскоўскай, ствараючы з ёй лакальную моўную еднасць. Сярод віцебскіх архаізмаў вялікую цікавасць мае слова *атока* 'рукаў ракі' (параўнайце ў гэтым самым значэнні сербскахарвацкае *ȍтока*). У значэнні 'рачны востраў' адзначаны ўкраінскае (закарпацкае) *отока*, рускае *оток*, у значэнні 'востраў' — сербскахарвацкае *о́ток*, старажытнапольскае *otok*. Параўнанне гэтых слоў дае магчымасць рэканструяваць семантычную мікрасістэму праславянскага *otokъ* 'рачны востраў' — праславянскае *ostrovъ* 'марскі востраў'.

Праславянскі пласт беларускай мовы, як і кожнай іншай, адносна невялікі. Значна больш у ёй лексічных інавацый (тэрытарыяльна шырокіх і вузкіх), інфільтрацый (пранікненняў), запазычанняў. Таму асноўнае месца ў беларускай этымалогіі займае вызначэнне генезісу гэтых пластоў лексікі. Вядома, усякая інавацыя, якая ахоплівае больш або менш шырокую тэрыторыю, дапускае існаванне нейкага эпіцэнтра распаўсюджання лексемы праз міждыялектную інфільтрацыю, але апошнюю выявіць вельмі цяжка, асабліва тады, калі інавацыя ахоплівае блізкароднасныя дыялекты. Яскравым прыкладам такіх інавацый з'яўляюцца беларуска-украінскія і беларуска-рускія інавацыі. Так, беларускае (віцебскае) *абаніты* 'распешчаны, свавольны, гарэзлівы' мае адпаведнік у рускай (пскоўскае) *обанитый* (тое самае значэнне). Беларускае *абаніты*<**абабніты* (рускае *бабнить* 'спавіваць', *банить* тое самае значэнне). Беларускае *глузд*, украінскае *глузд* трэба разглядаць як беларуска-ўкраінскую інавацыю. Параўнайце агульную ідыёму: беларускае *з'ехаць з глузду* і ўкраінскае *з'їхати з глузду*. Хоць надзейнай этымалогіі гэтага слова няма, але яго геаграфія (рускія прыклады толькі на тэрыторыях, суседніх з Беларуссю і Украінай) сведчыць пра беларуска-ўкраінскую інавацыю.

Тэрытарыяльна больш вузкімі, чым беларуска-рускія і беларуска-ўкраінскія, з'яўляюцца інавацыі агульнабеларускія, пра што сведчыць адсутнасць іншаславянскіх і індаеўрапейскіх паралеляў. Такой інавацыяй з'яўляецца, напрыклад, беларускае *клёк* 'жыццёвая сіла, сокі'>*клёк* 'розум, развага'. Іншы прыклад беларускае *ёдка* 'холадна і вільготна' (смаленскае *ёдка* ў гэтым жа значэнні трэба разглядаць як беларускае). Этымалогія: ад *есці*. Параўнайце *кусачы мароз*.

Праблема запазычанняў і пранікненняў для беларускай лексікі ў першую чаргу звязана з балтыйскімі крыніцамі, сярод якіх вылучаюцца субстратныя і кантактныя. Да субстратных інфільтрацый розных перыядаў адносяцца беларускія словы балтыйскага паходжання ў раёнах, не сумежных з балтыйскай моўнай тэрыторыяй. Частка такіх інфільтрацый пашыраецца на досыць вялікія прасторы і ахоплівае зону распаўсюджання беларускай, украінскай і часткова рускай і польскай моў. Так, беларускае *куль* 'тоўсты сноп няцёртай саломы' мае наступныя паралелі: украінскае *куль*, рускае *куль*, польскае *kul* з тым самым значэннем. Гэта пранікненне з балтыйскіх дыялектаў. Параўнайце літоўскае *kūlỹs* 'сноп саломы'.

У якасці астраўной субстратнай інфільтрацыі можна прывесці вузкарэгіянальнае беларускае (магілёўскае) *кулічкі* 'калені', якое ўзыходзіць да агульнабалтыйскай назвы косці (літоўскае *káulas*). Сярод магчымых кантактных інфільтрацый можна назваць беларускае (маладзечанскае і слонімскае) *абэржа* 'мажная жанчына' (параўнайце літоўскае *beřžti* 'здаравець, мажнець'). Але найбольш інтэнсіўная кантактная інфільтрацыя наглядаецца з боку польскай і рускай моў, прычым у 20 ст. першая паступова выцясняецца другой. Да запазычанняў з польскай трэба аднесці такія шырокаарэальныя інфільтрацыі, як беларускае *драбіна* 'лесвіца' [параўнайце ўкраінскае *драбина* ў тым жа значэнні з польскім *drabina* (тое самае значэнне)]. Або беларускае *жарт* (украінскае *жарт*), якое пранікла з польскай мовы, а польскае *żart* у сваю чаргу — з нямецкай. Дарэчы, словы нямецкага паходжання ў беларускай мове ў большасці выпадкаў запазычаны праз польскае пасрэдніцтва. Існуе таксама нямала вузкарэгіянальных запазычанняў з польскай мовы: беларускае (полацкае) *абэлка* 'абвінавачанне'<польскае *abelga* 'абраза' і г. д.

Запазычанняў з рускай мовы, асабліва ў апошні час, шмат, але выявіць іх значна цяжэй, што тлумачыцца вядомай беларуска-рускай дыялектнай блізкасцю.

Разгледжаныя аспекты этымалогіі важныя для кожнай жывой мовы, але яны маюць сваё спецыфічнае значэнне для мовы беларусаў. У апошнія часы ўсё больш аргументаў прыводзіцца на карысць асаблівых сувязей паміж беларускай і некаторымі іншымі, сёння несумежнымі славянскімі мовамі, што дазваляе ажыццявіць глыбокія прамоўныя рэканструкцыі і прасачыць дагістарычны лёс славян. Не меншае значэнне мае фіксацыя і тлумачэнне беларускіх інавацый. Структура спецыфічна беларускага словаўтварэння, яе гістарычныя і лінгвагеаграфічныя паказчыкі дазваляюць зрабіць больш глыбокую распрацоўку этымалагічнага матэрыялу.

*Літ.:* Пизани В. Этимология: История—пробл.—метод: Пер. с итал. М., 1956;

Мартынаў В. У. Беларуская этымалогія: Некаторыя аспекты // Бел. лінгвістыка. Мн., 1972. Вып. 1; Я г о ж. Этымалогія і лінгвістычная геаграфія // Тамсама. 1976. Вып. 9; Я г о ж. Белорусский этимологический ландшафт // Slawische Wortstudien. Bautzen. 1975; Я г о ж. Уводзіны // Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1978. Т. 1. Мартынов В. В., Мельничук А. С., Шанский Н. М. Восточнославянская этимологическая лексикография // Славянская историческая и этимологическая лексикография: (1970—1980 гг.): Итоги и перспективы: Сб. обзоров. М., 1986; Введенская Л. А., Колесников Н. П. Этимология и ее виды. Ростов-на-Дону, 1986.
*В. У. Мартынаў.*

## ЭЎФЕМІЗМЫ

У працэсе моўных зносін здараюцца сітуацыі, калі патрэбна ўжыць абазначэнне, якое ўяўляецца зняважлівым, не зусім прыдатным або занадта экспрэсіўным. Тады падбіраецца слова або выраз, што маскіруе прамы сэнс непажаданага выказвання. Такі займеннік называецца эўфемізмам (ад грэч. εῦ добра і φημί гавару). «Эўфемізм, можна сказаць,— сінонім, які «туманіць» ясныя контуры, накідвае дымку, змякчае абрысы і фарбы абазначаемага паняцця» (Брагина А. А. Синонимы в литературном языке. М., 1986. С. 22). Звычайна займеннікі дастасоўваюцца да слоў адмоўнай экспрэсіўна-ацэначнай або стылістычна зніжанай афарбоўкі з эстэтычных патрэб унікнуць грубых, нецэнзурных або інтымных выразаў: *зараза — інфекцыя, ілгаць — перабольшваць, нарадзіць — пусціць на свет.*

Непажаданымі часам выступаюць такія намінацыі, калі ў самім значэнні слова, як правіла матываванага, заключаецца адмоўная характарыстыка прадмета або з'явы. Эўфемізм нейтралізуе выразную матывацыю такіх слоў і аслабляе непажаданыя асацыяцыі: *чалавеканенавіснік — мізантроп, самалюбец — эгаіст, пустазелле — трава, разумова адсталы — дэбіл, падбухторшчык — інспіратар.*

Эўфемічная замена адбываецца і ў такой сітуацыі маўлення, калі слова здольна выклікаць адмоўную эмацыянальную або псіхічную рэакцыю суразмоўніка. Таму медыцынскія работнікі, напрыклад, свядома ўжываюць тэрміны *лятальны зыход* замест *смерць, хірургічнае ўмяшанне* замест *аперацыя, tbc* замест *сухоты.*

У некаторых жанрах вуснага маўлення, напрыклад, у публіцыстыцы, дыпламатыі, публічнай прамове ўжыванне эўфемізмаў разглядаецца як умоўна-абавязковы прыём: *ашукаць — увесці ў зман, захопнік — агрэсар, выскачка — парвеню, бязглуздзіца — нонсэнс, прадажны — карумпіраваны.*

Эўфемічная замена мае гістарычныя сувязі са старажытным этнаграфічным звычаем табуіравання — перайменавання прадметаў і з'яў на аснове забароны ўпамінаць іх назвы. Такая забарона напачатку мела рэлігійныя матывы. Лічылася, што дазволеныя, падстаўныя словы дапамагаюць улагодзіць багоў. Пазней у табу бачылі сродак, каб задобрыць дзікіх звяроў і нячысцікаў.

Старажытнаруская назва *мядзведзь* узнікла як эўфемізм са складаным значэннем 'той, хто есць мёд' да адпаведнага слова індаеўрапейскага паходжання. Пазней старажытнае індаеўрапейскае абазначэнне гэтага звера выйшла з ужытку. Табуіраваная назва страціла «недазволены» адпаведнік і стала прамой намінацыяй. Цяпер слова *мядзведзь* не мае статуса эўфемізма. Іншасказальна стаў называцца і жыццёва важны занятак старажытных славян *ловы*, у якім лёгка прасочваецца сувязь з назвай дзеяння *ловити*. Унутраная форма табуіраванага слова *паляванне (полеванье)* мае іншую прадметную суаднесенасць і не здольна нараджаць забабоны.

Аналізуючы прычыны ўзнікнення табуіраваных назваў, па сутнасці першасных эўфемізмаў, трэба ўлічваць умовы сацыяльнага ўкладу жыцця, пры якіх яны паяўляліся. Людзі верылі ў магічную сілу слова, здольную адвесці злыя чары: — *Чуў, як Маркава бабця гаворыць? Ніколі не скажа «вадзянік», а заўсёды «зялёны» або «мокры падол», бо ў таго, хоць ён чалавекам прыкіньса, заўсёды з падолу капае. І не «чорт», а «рагаты», і не «воўк», а «шэры пан». І калі сабакі зімой небяспечныя бываюць, то «паны, што на саломе спяць і зубамі ішчуцца».— Гэта чаго? Чаму гэта? — Забабонная. Верыць, што «пра воўка размова, а воўк у хатку»* (У. Караткевіч).

У якасці эўфемізмаў выступаюць аднаслоўныя ўтварэнні і апісальныя прыслоўі. Аднаслоўныя эўфемізмы прадстаўлены назоўнікамі *(хаўруснік — кампаньён)*, дзеясловамі *(хітраваць — лавіраваць)*, прыметнікамі *(упарты — настойлівы)*, прыслоўямі *(упустую — непрадуктыўна)*. Эўфемічная замена не заўсёды адбываецца ў межах адной і той часціны мовы, параўнайце: *белабрысы — бландзін, вар'ят — душэўнахворы.* Сітуацыйна непрыдатнае слова можа замяняцца апісальным выразам, блізкім да перыфразы: *растаўсцець — прыбавіць у вазе, прагнаць — папрасіць выйсці, сапсаваць — вывесці са строю, авантурыст — шукальнік прыгод.*

Ролю аслаблення адмоўнай сутнасці намінацыі можа ўзяць на сябе і фразеалагізм: *няздатны — зорак з неба не хапае, абжора — плячысты на жывот, някемлівы — галава, два вухі, незгаворлівы — кашы не зварыш.* Некаторыя фразеалагізмы, такія, як *дыхаць на ладан, заснуць вечным сном,* паводле паходжання былыя эўфемізмы. Працяглая традыцыя ўжывання прывяла да паступовага разбурэння сэнсавых сувязей паміж кампанентамі эўфемічных выразаў, кампрэсіі семантыкі і, як вынік, перамяшчэння іх у разрад фразеалагізмаў.

Эўфемічнае пераўтварэнне слова дасягаецца таксама адмоўем: *стары — немалады, прамахнуцца — не пацэліць, дурны — неразумны.* Некаторыя эўфемізмы можа суправаджаць гіперхарактарыстыка: *гарэлка — аквавіта* (паэтычнае), *каракуль — руно* (паэтычнае).

Эўфемічныя выразы выступаюць не толькі як лексічныя адзінкі мовы, але і маўлення. Тыя з іх, што ўзнікаюць на ўзроўні маўлення, характарызуюцца нестандартнасцю, выразнасцю, экспрэсіўнасцю. Часцей за ўсё прыкметы індывідуальнай прыналежнасці маюць эўфемізмы ў размоўна-бытавой, публіцыстычнай і мастацкай разнавіднасцях маўлення. У літаратурным творы камунікатыўная функцыя слова або выразу ўзмацняецца выяўленчай, таму як элементы стылю эўфемізмы апраўданы і ў функцыянальных, і ў эстэтычных адносінах: *І мне на твар, на лоб ляглі нямілай старасці мярэжы* (Я. Колас); *Павага патрэбна чалавеку нават тады, калі ён скончыў зямныя справы* (У. Караткевіч).

Не ўсе эўфемізмы агульнаўжывальныя. Некаторыя з іх абмяжоўваюцца прафесійным маўленнем *(турма — месца зняволення; злачынства — правапарушэнне)*, некаторыя пашыраны ў бытавым асяроддзі *(раскрадальнік — нясун, забалаціраваць — пракаціць)*.

З прагрэсам цывілізацыі грамадства прычыны ўзнікнення эўфемізмаў памнажаюцца. З меркаванняў ваеннай або дыпламатычнай тайны ўмоўнымі абазначэннямі замяняюцца назвы вайсковых часцей і заводаў з арыентацыяй на ваенную прамысловасць: *энская часць, прадпрыемства п/с А-5018* і інш.

Як процілегласць эўфемізмам вылучаюць **дысфемізмы** (какафемізмы) — стылістычна зніжаныя або грубыя словы, якімі замяняюць нейтральныя назвы.

*Літ.:* Ларин Б. А. Об эвфемизмах // Ларин Б. А. История русского языка и общее языкознание. М., 1977; Малажай Г. М. Эўфемізмы ў беларускай мастацкай літаратуры // Бел. мова і мовазнаўства. Мн., 1973. Вып. 1 *І. Р. Шкраба.*

Ю Устаў 11 ст.

Ю Паўустаў 15 ст.

Ю Паўустаў 16 ст.

Ю Паўустаў 17 ст.

Ю Скорапіс 15 ст.

Ю Скорапіс 16 ст.

Ю Скорапіс 17 ст.

Ю Ю Ф.Скарыны 16 ст.

Ю Статута ВКЛ 1588 г.

Ю Друкаваная 17 ст.

Ю Грамадзянская 18 ст.

*Слаўлю, гордыя словы, незгасальны ваш лад.*
*Хоць глуміліся з мовы каля царскіх палат,—*
*а яе не скарылі, бо на вуснах цвіла*
*і нашчадкаў Скарыны ў паход павяла...*
*Усталі гордыя словы*
*назаўжды, назусім.*
*Мая крэўная мова —*
*перад светам усім.*

Сяргей Панізнік

Ю

**Ю** — *трыццаць першая літара беларускага алфавіта. Паходзіць з кірыліцкай Ю («ю»). У старабеларускую графіку перайшла са старажытнарускага пісьменства. Абазначала галосны гук у пасля мяккіх зычных і спалучэнне гукаў йу* (лютня, юнакъ). *У рукапісах 14—17 ст. у сувязі з функцыяніраваннем розных пісьмовых школ і выкарыстаннем розных тыпаў пісьма (устаў, паўустаў, скарапіс) ужывалася ў некалькіх варыянтах, якія памагаюць вызначаць час і месца напісання помнікаў. Лічбавага значэння не мела. У 16 ст., акрамя рукапіснай, набыла друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, стала адрозніваца як малая і вялікая, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У сучаснай беларускай мове абазначае лабіялізаваны галосны гук у задняга рада верхняга пад'ёму і мяккасць папярэдняга зычнага* (люстэрка — *«л'устэрка»*, сюжэт — *«с'ужэт»*), *а ў пачатку слоў, пасля галосных,* ў, ь *і апострафа — спалучэнне гукаў йу* (юхт — *«йухт»*, каюта — *«кайута»*, наўючыць — *«наййучыц'»*, лью — *«л'йу»*, раз'юшаны — *«разйушаны»*). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў афіцыйных абрэвіятурах (ЮНЕСКА, ЮПІ). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дваццаць сёмы» (група «Ю»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (шыфр № 8ю).* *А. М Булыка.*

## ЮРГЕЛЕВІЧ ПЁТР ЯКАЎЛЕВІЧ



Беларускі мовазнавец П. Я. Юргелевіч нарадзіўся 14 студзеня 1894 г. ў в. Трабы Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. У 1925 г. скончыў факультэт грамадскіх навук БДУ. У 1926—27 гг. працаваў адказным рэдактарам газеты «Наш працаўнік» у г. Клімавічы, у 1927—28 гг.— стыльрэдактарам у Белдзяржвыдавецтве ў Мінску. У 1930—35 гг. быў вучоным сакратаром Інстытута мовазнаўства АН БССР. У сакавіку 1936 г. абвінавачаны ў нацыяналізме і рэпрэсіраваны. Да 1940 г. знаходзіўся ў папраўча-працоўным лагеры. У 1944—69 гг. загадчык кафедры беларускай мовы, дацэнт Магілёўскага педінстытута. Памёр 17 красавіка 1973 г.

П. Я. Юргелевіч пачаў сваю навуковую дзейнасць у 1930-я гады, калі многія пытанні беларускага мовазнаўства толькі пачыналі распрацоўвацца. Разам з П. Бузуком і Я. Мацюкевічам падрыхтаваў «Анкету для збірання матэрыялаў па беларускай мове» (1931), прымаў удзел у падрыхтоўцы «Праекта спрашчэння беларускага правапісу» (1933), «Ваеннага руска-беларускага слоўніка» (1933), падручніка «Беларуская граматыка: Марфалогія» (1936).

Найбольш плённа працаваў у 1950—70-я гады. Кола яго навуковых інтарэсаў шырокае. Даследаваў пытанні сучаснай беларускай літаратурнай мовы, беларускія народныя гаворкі, гісторыю беларускай мовы. Выступаў у друку з рэцэнзіямі на школьныя падручнікі па беларускай мове Н. Шэўчыка і А. Саломеніка (1935), М. Жыркевіча і А. Карзона (1949), М. Жыркевіча (1957). Напісаў «Праграму па гістарычнай граматыцы беларускай мовы: Для філалагічных і гісторыка-філалагічных факультэтаў» (1964). Шмат зрабіў П. Я. Юргелевіч у галіне стварэння вучэбных дапаможнікаў па беларускай мове для студэнтаў-філолагаў педагагічных інстытутаў. У 1958 г. выдаў «Нарыс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі» (2 выд., 1961), дзе ва «Уводзінах» вызначаны задачы і аб'ём курса, асвятляюцца агульныя пытанні беларускай мовы. «Нарыс...» уключае раздзелы: «Фанетыка», «Арфаэпія», «Графіка і правапіс», «Лексіка і фразеалогія». Вынік шматгадовай працы П. Я. Юргелевіча — «Курс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі» (1974), створаны на аснове 2 выданняў «Нарыса...». Акрамя раздзелаў, змешчаных у «Нарысе...», уключаны «Марфалогія» і «Гістарычныя каментарыі да «Марфалогіі». Усе раздзелы дапрацаваны, дапоўнены новымі звесткамі, асабліва па беларускай лексікаграфіі і фразеалогіі.

*Тв.:* Аб граматыцы беларускай мовы // Савецкая школа. 1949, № 3; Особенности говоров Могилёвской области // Уч. зап. Могилёвского гос. пед. ин-та. 1955. Вып. 1; К вопросу о происхождении окончаний полных прилагательных родительного падежа *-ого* и дательного *-ому* в восточнославянских языках // Тамсама. 1956. Вып. 2. *М. С. Яўневіч.*

## ЮРЧАНКА ГЕОРГІЙ ФЁДАРАВІЧ

Беларускі мовазнавец, пісьменнік і збіральнік фальклору Г. Ф. Юрчанка нарадзіўся 31 студзеня 1928 г. ў в. Кудрычы Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1951 г. скончыў Магілёўскі настаўніцкі інстытут, у 1959 г.— Гродзенскі педагагічны

інстытут. Настаўнічаў, вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. У 1961—88 гг. працаваў у выдавецтве «Навука і тэхніка» ў Мінску.

Асноўны напрамак навуковай дзейнасці Г. Ф. Юрчанкі — дыялектная лексіка і фразеалогія. Плёнам яго вывучэння і сістэматызацыі гаворак Мсціслаўскага раёна — мяжы непасрэдных кантактаў сучасных рускіх і беларускіх гаворак — стаў «Дыялектны слоўнік: (З гаворак Мсціслаўшчыны)» (1966), у якім растлумачана значэнне 2170 дыялектных слоў, што адсутнічаюць у нарматыўным «Беларуска-рускім слоўніку» (1962) ці зарэгістраваны ў ім не з усімі значэннямі. У слоўніку многа арыгінальных мясцовых слоў накшталт *апсóм* 'знянацку', *віхлéць* 'прагнуць', *гýкам* 'шмат, мноства', *лацнáць* 'лаўчыцца', падаюцца дзеясловы тыпу *вугнявіцца, гарлáцца, гудзéцца, гукнýцца*, якія не маюць адпаведных сінонімаў у літаратурнай мове. Асаблівая ўвага звернута на пераноснае значэнне слоў, надзвычай характэрнае для гаворак Мсціслаўшчыны.

У слоўніку «Народная сінаніміка» (1969) на матэрыяле гаворак Мсціслаўшчыны Г. Ф. Юрчанка распрацаваў 440 сінанімічных радоў, у якія ўвайшло больш за 4000 шырокаўжывальных слоў. Слоўнік адлюстроўвае асаблівасці сінанімізацыі лексікі народных гаворак, узаемасувязь народна-дыялектнай і літаратурнай лексікі, сінаніміку розных устойлівых словазлучэнняў. У ім змешчаны тлумачальны слоўнік 128 дыялектных слоў, якія не ўвайшлі ў «Дыялектны слоўнік», а таксама індэкс усіх дамінант і сінонімаў, прыведзеных у гэтай кнізе.

На аснове мсціслаўскіх гаворак Г. Ф. Юрчанка склаў фразеалагічны слоўнік у 3 тамах: «І коціцца і валіцца» (1972, літары А—З), «І сячэ і паліць» (1974, літары І—П), «Слова за слова» (1977, літары Р—Я). Тут апрацавана 16 150 фразеалагічных выразаў і іх варыянтаў. У канцы кожнай з кніг падаецца слоўнік народных слоў, якія не ўвайшлі ў ранейшыя лексікаграфічныя працы аўтара, а таксама тых, што сустракаюцца ў ілюстрацыях да фразеалагізмаў (усяго ў 3 тамах змешчаны 522 дыялектныя словы).

У слоўніку Г. Ф. Юрчанкі «Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны» (т. 1—3, 1981—85) на матэрыяле каля 16 200 лексічных адзінак шырока паказана форма- і словаўтваральная сістэма лексікі ў гаворцы Мсціслаўшчыны, яе выключна багатая сінаніміка і эмацыянальна-вобразная афарбоўка.

У працу «Сучаснае народнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўнік» (1988) Г. Ф. Юрчанка ўключыў лексічны матэрыял, сабраны ў 1970—80-я гг. ў мсціслаўскіх гаворках (каля 4 тыс. слоў). Слоўнікавыя артыкулы маюць арыгінальную будову: тут аб'яднаны, напрыклад, дзеясловы закончанага і незакончанага трывання *(абшалушыць, абшалушываць)*, зваротныя дзеясловы абодвух відаў, утвораныя ад апошніх незваротных *(абшалушыцца, абшалушывацца)*, дзеепрыметнікі *(абшалушаны, абшалушоный)* і дзеепрыслоўе закончанага трывання (*абшалушомшы* — ачысціўшы ад шалупіння). Такое кампактнае размяшчэнне дазволіла сэканоміць месца для падачы вялікай колькасці слоў і ілюстрацый, паказаць словаўтваральнае багацце гаворкі. Выключэнне складаюць афармленыя асобнымі артыкуламі аддзеяслоўныя назоўнікі на *-нне*, аддзеяслоўныя назоўнікі на *-аннік, -яннік, -эннік* (каля 100), якія называюць асоб мужчынскага полу — выканаўцаў якога-небудзь дзеяння: *абганяннік, дахваляннік, шмыканнік* і г. д. Абсалютная большасць лексем слоўніка адсутнічае ў слоўніках літаратурнай мовы.

Першы том слоўніка Г. Ф. Юрчанкі «Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны» (1993) змяшчае 4 тыс. дыялектных слоў на літары А — Н. Структура кнігі падобная да папярэдняй працы (1988). Спосаб падачы матэрыялу — алфавітна-гнездавы камбінаваны. Асобнымі гнёздамі прыводзяцца адназначныя словы. Лексіка тлумачыцца шляхам падбору літаратурных адпаведнікаў або апісальна. Без тлумачэння падаюцца назоўнікі жаночага роду пры адпаведных назоўніках мужчынскага роду, ацэначныя формы назоўнікаў, прыметнікаў, прыслоўяў, а таксама адназначныя дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі да адпаведных дзеясловаў. У адрозненне ад папярэдніх выданняў у апошнім слоўніку Юрчанкі часцей раскрываецца метафарычны бок мясцовай лексікі, пераносныя значэнні слоў. Прамыя значэнні ў такіх выпадках не падаюцца. Абсалютная большасць лексем — арыгінальныя мясцовыя і рэдкія словы *(аглобішча*— цабэрак, *аддзюндзюрыць* — спыніць балбатню, *абраголь* — ашуканец, *адназерна* — сумленна, *безуроднік* — чалавек, які не мае родных, *веразуб* — чалавек з рэдкімі зубамі, *змыцел* — намер і г. д.). Вялікую цікавасць уяўляюць словы, нетрадыцыйныя паводле свайго ўтварэння (*адураваннік* — свавольнік, *крывапійнік* — крывапівец, *няграматнік* — непісьменны чалавек, *ашчапеніваць* — абдымаць, *акуратства* — акуратнасць, *басаторыя* — басата, *вузката* — вузасць і г. д.). Шырока прадстаўлена ў слоўніку эмацыянальна-ацэначная лексіка (*аддубечыць* — пабіць, *аддудоліць* — адпіць, *адчабурдэхаць* — наплёскацца з шумам, *атрутнік* — дакучлівая асоба, *гаголь* — здаровы, фізічна дужы чалавек, *додзік* — балбатун, *лескатуха* — балбатуха і г. д.).

Большасць артыкулаў Г. Ф. Юрчанкі па дыялектнай лексіцы раскрываюць цяжкадаступныя і малавывучаныя лексічныя пласты народнай мовы. Ён публікаваў таксама зборы мікратапанімічных і фальклорных матэрыялаў (зборнікі «Праблемы сучаснага беларускага фальклору», 1969, «Пытанні беларускай тапанімікі», 1970), шматлікія рэцэнзіі на слоўнікі, артыкулы пра мову і мастацкія асаблівасці твораў беларускай літаратуры і інш.

*Талент Юрчанкі-пісьменніка найбольш праявіўся ў літаратурных пародыях і эпіграмах, а таксама ў сатыры (ён аўтар 6 зборнікаў пародый і эпіграм). Пад абстрэл парадыста трапляюць літаратурная поза, неглыбокае пранікненне ў сутнасць з'яў, непатрэбная ўскладненасць, захапленне словатворчасцю, празмернае злоўжыванне дыялектнымі словамі, драбнатэм'е, гладкапіс, маралізатарства і інш. Гумар сатырыка шчыры, добразычлівы, але часам бывае калючы і з'едлівы.* *М. Н. Крыўко.*

## ЮРЭВІЧ АНТОН ЛУКІЧ

Беларускі мовазнавец А. Л. Юрэвіч нарадзіўся 16 студзеня 1911 г. ў в. Макаўка Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. У 1935 г. скончыў факультэт мовы і літаратуры Магілёўскага педінстытута. Настаўнічаў. Вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педінстытуце (1939—40). У 1946—77 гг. у Магілёўскім педінстытуце (у 1969—73 загадчык кафедры беларускай мовы). Памёр 27 лютага 1986 г.

Аб'ектам навуковых даследаванняў А. Л. Юрэвіча з'яўляліся лінгвістычная тэрміналогія, агульнае мовазнаўства, пунктуацыя сучаснай беларускай мовы, пытанні паходжання і развіцця мовы ў святле навуковых і рэлігійных уяўленняў, методыка выкладання беларускай мовы ў школе і інш.

«Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў» А. Л. Юрэвіча (1962) налічвае больш за 1250 тэрмінаў агульнага мовазнаўства, фанетыкі, граматыкі, стылістыкі. У свой час гэта быў самы поўны слоўнік лінгвістычнай тэрміналогіі ва ўсходнеславянскім мовазнаўстве. У ім пададзена тэрміналогія, якая ўзнікла на аснове беларускага моўнага матэрыялу (дзеканне, цеканне, зацвярдзелыя зычныя і інш.), а таксама на падставе матэрыялаў іншых моў. Для іншамоўных тэрмінаў указваецца іх паходжанне. Кожны тэрмін у слоўніку падрабязна тлумачыцца. Многія слоўнікавыя артыкулы маюць прыклады, якія памагаюць разумець моўныя з'явы.

У працы «Сучасная беларуская пунктуацыя» (2 выд., 1972, разам з Р. Н. Клюсавым) даецца сістэматычны агляд нарматыўных і факультатыўных з'яў пунктуацыі ў сучаснай беларускай мове, пераважна на прыкладах твораў мастацкай літаратуры, з адпаведнымі гістарычнымі каментарыямі. Для разумення такіх зыходных сінтаксічных паняццяў, як сказ, словазлучэнне, прэдыкатыўнасць, часціны мовы і члены сказа, віды сінтаксічных сувязей слоў і інш., аўтары ўключылі ў кнігу адпаведны матэрыял сінтаксічнай тэорыі ў спецыяльных «Уводзінах» і ў кожным раздзеле пунктуацыі.

У вучэбным дапаможніку для студэнтаў ВНУ «Уводзіны ў мовазнаўства» (1987, з В. І. Рагаўцовым) асноўныя лінгвістычныя паняцці і тэрміны раскрываюцца пераважна на матэрыяле беларускай мовы; пры неабходнасці прыводзяцца прыклады з іншых моў. Тэрміналагічны паказальнік, змешчаны ў канцы кнігі, уключае найбольш важныя лінгвістычныя тэрміны, неабходныя для засваення.

*Тв.:* Вывучэнне назоўніка ў V класе васьмігадовай і сярэдняй школы. Мн., 1960; Навука і рэлігія аб паходжанні і развіцці мовы. Мн., 1964. *М. Н. Крыўко.*

Устаў 11 ст.

Паўустаў 15 ст.

Паўустаў 16 ст.

Паўустаў 17 ст.

Скарапіс 15 ст.

Скарапіс 16 ст.

Скарапіс 17 ст.

Ф. Скарыны 16 ст.

Статута ВКЛ 1588 г.

Друкаваная 17 ст.

Грамадзянская 18 ст.

*І працаўніца, і чараўніца,*
*Мова-сялянка, і мова паэтаў...*
*Дзякуй табе, што не ўмела забыцца*
*На долю песні прыветнай.*
*Спелішся ціхаю ласкаю*
*І несуцешнаю скрухаю.*
*Я цябе, мая ластаўка,*
*Не адрываюся — слухаю...*

Люба Тарасюк



**Я** — *трыццаць другая і апошняя літара беларускага алфавіта. Запазычана з рускай графікі ў 19 ст. У старабеларускай мове гук* а *пасля мяккіх зычных і ётаваны* а *абазначаліся літарамі* ѧ *(«юс малы») пасля мяккіх зычных* (племѧ, свѧто) *і* ꙗ *(«а ётаванае») пасля галосных і ў пачатку слова* (боꙗзнь, ꙗсность). *У старабеларускую графіку абедзве гэтыя літары перайшлі са старажытнарускай мовы. У 16 ст. яны, акрамя рукапіснай, набылі друкаваную форму. Пачынаючы з Ф. Скарыны, сталі адрознівацца як малыя і вялікія, хоць ужыванне вялікай літары ва ўласных імёнах, геаграфічных назвах і ў пачатку сказаў не было яшчэ паслядоўным. У рускай графіцы 18 ст. літара* ꙗ *выйшла з ужытку, а на аснове скарапіснай* ѧ *узнікла* Я, *уключаная потым у грамадзянскую азбуку. У сучаснай беларускай мове абазначае нелабіялізаваны галосны гук* а *сярэдняга рада ніжняга пад'ёму і мяккасць папярэдняга зычнага* (паляна — *«пал'ана»*, сястра — *«с'астра»*), *а ў пачатку слоў, пасля галосных,* ў, ь *і апострафа — спалучэнне гукаў* йа (ягада — *«йагада»*, баян — *«байан»*, Гаўя — *«Гаўйа»*, мадзьяр — *«мадз'йар»*, аб'ява — *«абйава»*). *Бывае вялікая і малая, мае рукапісную і друкаваную форму. Ужываецца ў выразе* Ад а да я *(ад пачатку да канца; усё цалкам), у афіцыйных абрэвіятурах (ЯМЗ). Пры класіфікацыйным падзеле мае значэнне «дваццаць восьмы» (група «Я»), пры лічбавай нумарацыі — дадатковае значэнне для размежавання прадметаў пад адным нумарам (квадрат № 9я).*

*А. М. Булыка.*

## ЯДВІГІН Ш.



Ядвігін Ш. (Антон Іванавіч Лявіцкі) — адзін з пісьменнікаў, што стаялі ля вытокаў беларускай мастацкай прозы. Яго літаратурная творчасць шматжанравая. Ён вядомы як аўтар баек у прозе, лірычнага апавядання, сатырычнай замалёўкі, дарожных нататкаў, фельетона, мастацкай публіцыстыкі, мемуараў. Вялікае значэнне для станаўлення буйной празаічнай формы беларускай літаратуры меў яго раман «Золата».

Творчасць Ядвігіна Ш. адыграла значную ролю ў фарміраванні норм беларускай літаратурнай мовы, удасканаленні сістэмы яе стылістычных сродкаў, пашырэнні выяўленчых магчымасцей. Нацыянальная літаратурна-моўная мастацкая школа складвалася, у прыватнасці, і праз індывідуальна-творчае ўвасабленне таленту і майстэрства Ядвігіна Ш. — аднаго з буйнейшых беларускіх празаікаў пачатку 20 ст.

Ядвігін Ш. нарадзіўся 4 студзеня 1869 г. ў маёнтку Добасня былога Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні (зараз Кіраўскі раён Магілёўскай вобласці). Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце на медыцынскім факультэце. У 1890 г. за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях быў выключаны з універсітэта і арыштаваны. Пасля вяртання на Беларусь служыў правізарам у Радашковічах, працаваў у Мінску. Памёр 24 лютага 1922 г. ў Вільні.

Ядвігін Ш. пачынаў пісаць па-руску. Першае яго апавяданне на беларускай мове «Суд» апублікавана ў газеце «Наша доля» 20 верасня 1906 г. Паслярэвалюцыйны ўздым нацыянальна-культурнага руху на Беларусі, легалізацыя беларускага друкаванага слова, заснаванне газет рэвалюцыйна-дэмакратычнага характару ўплывалі на творчасць пісьменніка. Адна за адной выходзяць яго кніжкі «Дзед Завала» (1910), «Бярозка» (1912), «Васількі» (1914). Раннія апавяданні з'явіліся вынікам наследавання фальклорных сюжэтаў — казак, паданняў, анекдотаў. Некаторыя з гэтых апавяданняў маюць аўтарскае ўдакладненне: пераробленае з каляды; казка; з народнага апавядання. Першая спроба пяра яшчэ не дае падстаў меркаваць пра ідэйна-мастацкую сталасць пісьменніка, але цікавая творчай распрацоўкай народна-казачнай паэтыкі.

Значнае месца ў творчай спадчыне Ядвігіна Ш. займаюць кароткія апавяданні гумарыстычна-бытавога плана, якія паводле жанрава-стылявых асаблівасцей набліжаюцца да баек у прозе. У іх мастацка-псіхалагічны малюнак абапіраецца на рэаліі штодзённага побыту, гэтым абумоўлены і прынцыпы адбору лексікі. Форму выкладу задае арыентацыя на размоўна-гутарковае маўленне. Жывыя рэалістычныя дэталі малююцца нацыянальна-самабытнымі фарбамі. Зніжаная экспрэсіўная афарбоўка, звычайна неапраўданая ў аўтарскім кантэксце, натуральная ў вуснах персанажа, праз успрыманне якога асвятляюцца падзеі («З маленькім білецікам», «Заморскі звер», «Пазыка»). Апавядальнік малюе навакольную рэчаіснасць у дынаміцы ўражанняў. Таму сэнсава ёмістыя, здольныя наглядна перадаць рух, дзеянне дзеясловы ады-

грываюць важную ролю побач з іншымі сродкамі вобразнага ўздзеяння: *драпануць, гоцнуць, храпнуць, згарусціць, лясnуць*.

Характэрная прыкмета творчага почырку Ядвігіна Ш.— выкарыстанне мікравобразаў — размоўных дзеяслоўных метафар: *увабраў* (з'еў), *разбухаўся* (патаўсцеў), *дацца* (памерці), *пілаваць* (дакараць), *чмыхнуць* (збегчы), *затуманіць* (закурыць), *пражыць* (лупіць). Пісьменнік адкрывае схаваныя сэнсавыя магчымасці слова, пашырае абсяг яго лексічнага і стылістычнага выкарыстання.

Ядвігін Ш. па-майстэрску выкарыстоўвае эфектыўны выяўленчы прыём, заснаваны на градацыі дзеясловаў, якія не толькі выконваюць ролю сэнсавага ўдакладнення, але выходзяць за межы характарыстыкі дзеяння і малююць чалавечы характар: *Падышоўшы пад акно,* [аканом] *стаў спярша далікатна* ***барабаніць*** *па ім костачкамі зложанага ў кручок пальца, пасля —* ***ляпаць*** *усёй пяцярнёй, урэшце, пачаў* ***пражыць*** *кулаком у аконную раму* («Рабы»).

І ў творах, напісаных ад імя героя-апавядальніка («Сабачча служба», «Жывы нябожчык», «Чортава ласка»), і ў тых, дзе падзеі адлюстраваны ад імя аўтара, але з эмацыянальнай пазіцыі персанажа («Падласенькі», «Цырк», «Гаротная»), выкарыстоўваюцца выяўленчыя магчымасці сацыяльна-псіхалагічнай стылізацыі. Натуральнасць мовы персанажа з народа падкрэсліваецца свядомым ужываннем пазалітаратурных элементаў лексіка-сінтаксічнага ладу. З устаноўкай на характаралагічнасць ужываюцца прастамоўныя словы: *налпа, француз, дапасці, гіцаль, ляпайла, казюрыць вочы, чаўпсціся, нацурболіцца, чабохнуць, камандзер, раздабрухацца, улялюкаць*. Побач з гэтымі экспрэсіўна-ацэначнымі словамі як сродак эмацыянальнай характарыстыкі выступаюць аддзеяслоўныя формы са значэннем імгненна-вытворнага дзеяння. Яны памагаюць пісьменніку надаць стылю апавядання характар прастаты і нязмушанасці: *грак, тыц, скрыг, грымсь, цмок, хлясь, гойц, бразь, сморг*.

Ва ўмовах адсутнасці строгіх лексічных норм выбар слова, характэрны для творчай манеры пісьменніка, робіцца па-майстэрску, сведчыць пра высокую моўную культуру, добрае адчуванне ладу беларускай мовы. Праўда, зрэдку ў яго творах сустракаюцца дыялектызмы: *таўсціня, стрых* (страха), *тыкеля, гунька, начэнне* (начынне), *зара, заранЯ*. Цікавы пласт слоў, якія не ўвайшлі ў склад літаратурнай мовы, але па-народнаму каларытныя, выразныя сваёй унутранай формай, кантэкстуальна значныя: *стратаваць* (несці страты), *прыкуцнуць* (сесці ў куце), *засклЯпіць* (замураваць у склепе), *замінішча* (пра тое, што замінае), *пабразгачы* (металічныя грошы), *кпінкаваць* (строіць кпіны), *прынадзейваць* (трохі абнадзейваць), *кашлява* (квола, слаба). Мастацкая інтуіцыя беспамылкова прыводзіць пісьменніка да набыткаў моватворчага генія беларускага народа. Багацце моўнай палітры Ядвігіна Ш. надаюць словы з нацыянальна-размоўным каларытам, якія адлюстроўваюць рэаліі вясковага побыту, народныя звычаі: *кармняк, двузлотка, звадкі, шоран, лядоўня, дзірван, паняверка, засцянковічы, дзядзіна, шнур, гамэрня, пятроўка, грамніцы*.

Сінтаксічная арганізацыя аўтарскага апавядання заснавана пераважна на канструктыўных формах маналога. Граматычна складаныя адзінкі сустракаюцца нячаста. У большасці сінтаксічных канструкцый гучаць жывыя гутарковыя інтанацыі: *І гэтак стаў хадзіць, дык ходзіць, а ўсё нічога не выходзе, ажно пакуль аднаго торгу не спаткаўся ён з гэтым сваім начальнікам на рынку* («Зарабіў»); *У дарозе, вядомая рэч, зразу зусім не чутно цяжару, а прайдзі толькі далей, дык і хунт пудам здаецца* («Хлеб»). Часам пісьменнік ужывае і разгорнутыя сінтаксічныя структуры, пабудаваныя па законах высокай прамовы. Яны раскрываюць пачуцці нацыянальнага патрыятызму, філасофскую думку, глыбокі боль за лёс свайго народа і краіны, грамадзянскі пафас: *Але, як гром з яснага неба, неспадзяванае няшчасце зніштожыла ўсю надзею абяднеўшага народа, яго стон каціўся па зямлі, але не шыбаў у гару, дзе бы пачуў народны выбранец, а той, спаглядаючы з гэтай вышы ўніз, не мог дагледзець потам і крывёй злітай зямлі, па каторай варушыліся яго маленькія кармільцы* («Заведзеная надзея»).

Для апавядальнай прозы Ядвігіна Ш. характэрны элементы псіхалагічнага аналізу, які не знайшоў належнага ўвасаблення ў творчай практыцы пісьменнікаў-папярэднікаў. Якасныя ацэнкі псіхалагічнага стану героя аўтар часцей даваў чыста моўнымі сродкамі, праз указанне на знешняе выяўленне пачуццяў, а не праз аналіз глыбінных душэўных зрухаў. У лірычных апавяданнях («Бярозка», «Дуб-дзядуля») часам перадаваўся стан суперажывання апавядальніка. Гэта дасягалася з дапамогай вобразна-моўных прыёмаў, характэрных для народнай выяўленчай традыцыі: паралельнасці рэальнага і іншасказальнага планаў (нешчаслівая жаночая доля Марыські — спарахнелая бярозка), параўнанняў-прыпадабненняў *(з вачэй яе сыпаліся адна за адной слязінкі, як сыпаліся пажоўклыя лісточкі з здрыгнуўшайся пад абухом бярэзіны)*, эмацыянальнага ўзмацнення пры ўдзеле словаўтваральных сродкаў *(жалудок, елачкі, сасонкі, дзіцятка, карэньчыкі, дзядулька, зямліца)*.

Раскрыццё «дыялектыкі душы» герояў набывае большую глыбіню ў перцым беларускім рамане «Золата». У ім Ядвігін Ш. дамагаецца праўдзівасці ў перадачы псіхалагічнага стану герояў праз мастацка-эстэтычнае асваенне прыёму няўласна-простай мовы. Думкі, нюансы пачуццяў, змены настрою, адносіны да рэчаіснасці, рысы характару перадаюцца з дапамогай няўласна-простай мовы, якая выступае як своеасаблівая самахарактарыстыка героя, выказаная ад імя аўтара: *Алекса... на такую рызыку не пойдзе: калі не можа даць шчасця Зосі, дык не хоча, каб яна праз яго пакутавала, і хоць надта яму будзе цяжка, балюча, але свету завязваць дзяўчыне не будзе: хай ідзе замуж за Васіля — хлопец не кепскі, а ён — Алёкса — з'едзе з гэтай старонкі, каб і вочы яго гэтага не бачылі, каб і сэрца свайго дарма не крывавіць*.

Наватарская заслуга Ядвігіна Ш. і ў развіцці жанру мемуараў. У асобе апавядальніка мы бачым не раўнадушнага фактографа, а чалавека, ахопленага самымі рознымі пачуццямі: то светлай журбой, то пафасам народнага заступніцтва, то дасціпным гумарам. У гутарковую апавядальную плынь натуральна ўключаюцца такія эмацыянальныя сродкі, як фразеалагізмы: *даваць драпака, шыта-крыта, хоць у вір галавой, даць рады, нічога не папішаш*.

Духоўны свет пісьменніка напоўнены пачуццём нацыянальнага самаадчування, нацыянальнай самасвядомасці. Яшчэ ў камеры Бутырскай турмы, пад беларускія песні студэнтаў Мінскага і Віленскага зямляцтваў, паводле яго слоў, «пазнаў я сябе беларусам». З захапленнем ён пісаў пра «выдатныя вершы Янкі Лучыны» і «цудоўныя вершы «Беларускай дудкі». Думку пра тое, што жывая беларуская мова «гладкая, пявучая, лірычная, багатая ў словы і звароты, каторых хватае выказаць нават такія чароўныя творы, як Міцкевіча», Ядвігін Ш. пацвердзіў сваёй мастацкай творчасцю.

Чытача і сёння прываблівае яго своеасаблівая стылявая манера, для якой характэрна чуласць да народнага слова і вобраза, дынамічнае, не застылае ў сваіх сувязях і значэннях слова, змястоўнасць формы. Вопыт таленавітага белетрыста — добры грунт для сучаснай беларускай прозы. Сваёй творчасцю Ядвігін Ш., пісьменнік з «пэўна скрышталізаванай індывідуальнасцю і для беларускай літаратуры характэрнай» (Б а г д а н о в і ч М. Зб. тв. Мн., 1968. Т. 2. С. 125), заклаў традыцыі, якія знайшлі далейшае развіццё ў творах сучасных майстроў мастацкага слова.

*Літ.:* Г о л у б е в а Л. С. Ядвігін Ш. //Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2. Літаратура XIX — пачатку XX ст. Мн., 1969; Ч ы г р ы н І. П.

Станаўленне беларускай прозы і фальклор: Дакастр. перыяд. Мн., 1971; Нямковіч Н. Пісьменнік і станаўленне літаратурнай мовы // Моўныя адзінкі ў кантэксце: Зб. навук. артыкулаў. Мн., 1987; Лойка А. А. Ядвігін Ш. (1868—1922) // Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастр. перыяд. 2 выд. Мн., 1989. Ч. 2. *І. Р. Шкраба.*

## ЯНКОЎСКІ ФЁДАР МІХАЙЛАВІЧ



Беларускі мовазнавец і пісьменнік Ф. М. Янкоўскі нарадзіўся 21 верасня 1918 г. ў в. Клетнае Глускага раёна Магілёўскай вобласці. У 1948 г. скончыў Гродзенскі педінстытут. Працаваў настаўнікам. З 1953 г. выкладчык, у 1956—82 гг. загадчык, у 1983—88 гг. прафесар кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага педінстытута. Доктар філалагічных навук (1970), прафесар (1971). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1972). Памёр 13 лістапада 1989 г.

Ф. М. Янкоўскі даследаваў фанетыку і лексіку беларускай народнай мовы, фанетыку, марфалогію і сінтаксіс беларускай літаратурнай мовы, гісторыю мовы і беларускую фразеалогію. Аўтар каля 300 навуковых прац.

У кандыдацкай дысертацыі «Глускія гаворкі» (1954) ён дэталёва апісаў фанетычную і марфалагічную сістэму глускіх гаворак, растлумачыў узнікненне асобных дыялектных рыс, вызначыў ступень іх устойлівасці, паказаў, як канкрэтныя гаворкі ўспрымаюць уздзеянне літаратурнай мовы.

У 1959, 1960, 1970 гг. Ф. М. Янкоўскі апублікаваў 3 выпускі «Дыялектнага слоўніка», дзе адлюстраваў не толькі дыялектную лексіку Глуска́га раёна, а падаў і паралелі з іншых беларускіх гаворак, некаторых славянскіх і неславянскіх моў (польскай, чэшскай, балгарскай, нямецкай і інш.). Вучоны прыводзіць багатыя сінанімічныя гнёзды, адлюстроўвае сэнсавыя адценні слоў, ілюструе іх ужыванне прыкладамі з гутарковай мовы, з народных песень, апавяданняў, казак. Пры тлумачэнні слоў раскрывае змест пэўных паняццяў, прыводзіць звесткі пра флору і фауну Беларусі, вераванні і абрады беларускага народа. Дыялектную сінаніміку ён лічыць тым невычэрпным багаццем, без авалодання якім не можа паспяхова развівацца літаратурная мова.

Кола навуковых інтарэсаў Ф. М. Янкоўскага шырокае і шматаспектнае. Асаблівую ўвагу ён аддаваў збіранню прыказак, прымавак, фразеалагізмаў. Яго працы ў галіне народнай фразеалогіі адкрывалі новыя раздзелы беларускай лінгвістыкі — фразеалогію і фразеаграфію. У кнізе «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі» (1957) вучоны тэматычна спарадкаваў і лексікаграфічна апісаў больш за 5 тысяч устойлівых народных выказванняў (у тым ліку і фразеалагізмаў), даў кароткі каментарый. У 2-м выданні кнігі «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы» (1962) павялічыў колькасць фразеалагізмаў, пашырыў каментарый да іх. Трэцяе выданне кнігі, значна дапоўненае, выйшла ў 1992 г. Ён збіраў і афарыстычныя выслоўі літаратурнай мовы, якія змясціў у кнізе «Крылатыя словы і афарызмы» (1960). Гэта была першая ў беларускім мовазнаўстве спроба навуковага асэнсавання ролі крылатых выслоўяў у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Аўтар падае разнастайныя паводле структуры крылатыя выслоўі: сінтаксічна закончаныя вобразныя выразы *(Мой родны кут, як ты мне мілы; Рупная пчала ўмее мёд сабраць і з горкіх кветак; Дум не скуеш ланцугамі)*, устойлівыя словазлучэнні *(атаман мужыцкай праўды; хварэць на пана)*; асобныя словы *(Туляга, Гарлахвацкі)*.

Ф. М. Янкоўскі займаўся і тэарэтычнымі праблемамі фразеалогіі. У шматлікіх артыкулах ён разглядаў суадносіны беларускай народнай і літаратурнай фразеалогіі, раскрываў этымалогію фразем, распрацоўваў прынцыпы і прыёмы фразеалагічнай сістэматызацыі. У кнізе «Роднае слова» (1967) вучоны выказаў сваё разуменне фраземы: вызначыў яе сутнасць як гатовай адзінкі мовы з гатовым, вядомым сэнсам, паказаў яе семантычную цэласнасць, сінтаксічную непадзельнасць, экспрэсіўна-эмацыянальную выразнасць, генетычную сувязь са звычайным, свабодным словазлучэннем, адзначаў, што працэс фразеалагізацыі пераважна абумоўліваецца пераносным значэннем словазлучэння. Упершыню ў беларускім мовазнаўстве Ф. М. Янкоўскі ўзняў пытанне пра пераклад фразеалагізмаў, у прыватнасці з рускай мовы на беларускую, раскрыў сутнасць перакладу фразеалагізмаў (немагчымасць даслоўнага перакладу, неабходнасць падбору адпаведнікаў у мове перакладу). Яго кніга «Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне» (1968) — тлумача́льны слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. У слоўнікавых артыкулах даследчык паказвае варыянты кампанентаў фразеалагізмаў, называе словы, з дапамогай якіх ажыццяўляецца сувязь фраземы з кантэкстам, да многіх фразеалагізмаў дае стылістычныя паметы, прыводзіць ілюстрацыі ўжывання ўстойлівых выразаў у народнай мове. У некаторых артыкулах ён змяшчаў кароткія этымалагічныя даведкі. У слоўніку нямала фразеалагізмаў-адпаведнікаў з рускай мовы, што дазваляе меркаваць і пра генетычную агульнасць усходнеславянскай фразеалогіі, і пра самабытнасць фразеалагічных сістэм родных моў. Слоўнік увайшоў у яго доктарскую дысертацыю «Беларуская народная фразеалогія» (1969), у якой прааналізавана больш за 7500 уласна фра-




Працы Ф. М. Янкоўскага.

зеалагізмаў. Ф. М. Янкоўскі прытрымліваўся шырокага разумення фразеалогіі. Ён даследаваў мнагазначныя народныя фразеалагізмы, паказаў адметнасць фразеалагічнай сінанімікі дыялектнай мовы. Характарызуючы сінанімічныя адносіны ў фразеалогіі, ён адрозніваў агульнанацыянальную сінаніміку ад сінанімікі асобных гаворак, разглядаў праблему фразеалагічнай варыянтнасці, якую пазней даследаваў у кнігах «Роднае слова» (2 выд., 1972), «Беларуская мова» (3 выд., 1978), «Беларуская фразеалогія» (1981), «Сучасная беларуская мова» (1984). На багатым фактычным матэрыяле народнай фразеалогіі даследчык прааналізаваў фанетычную, лексічную, марфалагічную, сінтаксічную, камбінаваную варыянтнасць фразем, паказаў іх спалучальныя магчымасці і асаблівасці ўжывання, этымалогію многіх фразем, даў структурна-граматычную характарыстыку тыповых мадэляў беларускіх фразеалагізмаў.

Пытанням гісторыі мовы прысвечана кніга «Гістарычная граматыка беларускай мовы» (2 выд., 1983; 3 выд., 1989), культуры мовы — «Беларускае літаратурнае вымаўленне» (4 выд., 1976). Ён адзін з першых у беларускай філалогіі пачаў распрацоўку праблемы даследавання мовы мастацкага твора. Створаная ім беларуская лінгвістычная школа пачала распрацоўку тэмы «Слова, фразеалагізм, словазлучэнне ў кантэксце». Вынікам даследавання сталі штогадовыя (пачынаючы з 1975) зборнікі навуковых артыкулаў, нязменным кіраўніком і рэдактарам якіх ён быў.

Вывучэнню, асэнсаванню зместу, вобразнасці, дасціпнасці беларускага слова прысвечаны філалагічныя эцюды, абразкі Янкоўскага-пісьменніка, сабраныя ў асобную кнігу «Само слова гаворыць» (1986).

*Тв.:* Назоўнікі і іх формы ў народных гаворках Глускага раёна // Уч. зап. Минского гос. пед. ин-та. 1956. Вып. 6; Некаторыя сінтаксічныя асаблівасці народных гаворак // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1956. № 2; Аб працы Я. Коласа над мовай рамана «На ростанях» // Тамсама. 1961. № 1; Крылатыя словы // Полымя. 1959. № 12; З народнай фразеалогіі // Тамсама. 1965. № 6; 1966. № 2, 9—11; 1968. № 2, 5; Да этымалогіі беларускіх фразеалагізмаў // Тамсама. 1969. № 6; З філалагічных эцюдаў, апавяданняў // Тамсама. 1986. № 6; Слова пра афарызмы // Тамсама. 1987. № 8; З роднага народнага // Тамсама. 1988. № 10; Перачытваючы Васіля Субоціна // Тамсама. 1989. № 10; Прыказкі, прымаўкі, фразеалагічныя спалучэнні // Матэрыялы для слоўніка народнадыялектнай мовы. Мн., 1960; Уласныя імёны, іх варыянты і некаторыя формы ад імёнаў // Тамсама; З назіранняў над моваю рамана «На ростанях» // Нар. асвета. 1960. № 8; Нарыс фанетыкі гаворак Глускага раёна//З даследаванняў па беларускай і рускай мовах. Мн., 1961; Да вывучэння народнай фразеалогіі // Навуковая канферэнцыя па пытаннях лексікалогіі і лексікаграфіі: Тэз. дакладаў. Мн., 1963; З нарысаў па беларускай фразеалогіі // Лінгвістычны зборнік: Арт., паведамл., матэрыялы. Мн., 1965; З нататкаў пра афарызмы: (Багдановічава слова) // Материалы научно-теоретической конференции: (Тез. докладов). Секция филол. наук. Мн., 1966; О фразеологическом словаре белорусских народных говоров // Проблемы устойчивости и вариантности фразеологических единиц: Материалы межвузовского симпозиума. Тула, 1968; Четыре фразеологических этюда // Проблемы истории и диалектологии славянских языков. М., 1971; Беларускія народныя параўнанні: Кароткі слоўнік. Мн., 1973; З размовы пра народнае слова // Пясняр мужнасці. Мн., 1976; Фразеалагізмы (фраземы) у беларуска-рускім слоўніку (1962) // Беларуская фразеалогія: Зб. арт. Мн., 1980; Чытаючы Кастуся Вашыну: Старонкі з дзённіка // Вобраз-81: Літ.-крыт. артыкулы. Мн., 1981; Купалава афарыстычнае слова // Вобраз-83: Літ.-крыт. артыкулы. Мн., 1983; Коласавы афарызмы // Каласавіны: Зб. навук. прац з нагоды дня нараджэння нар. паэта Беларусі Якуба Коласа. Мн., 1986. *Н. В. Гаўрош.*

## ЯНОВІЧ АЛЕНА ІВАНАЎНА



Беларускі мовазнавец А. І. Яновіч нарадзілася 18 сакавіка 1933 г. ў Гомелі. У 1955 г. скончыла Маскоўскі універсітэт. Доктар філалагічных навук (1984). Прафесар (1987). У 1958—68 гг. працавала ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі, з 1968 — у БДУ.

А. І. Яновіч — аўтар каля 60 навуковых прац па беларускай і рускай мовах, параўнальна-гістарычным і тыпалагічным вывучэнні славянскіх моў (гістарычная граматыка, гісторыя літаратурнай мовы, гістарычная і сучасная лексікалогія і лексікаграфія, гістарычнае словаўтварэнне, старажытныя ўсходнеславянскія мовы, структура і стылістыка тэксту). Найбольш значныя работы прысвечаны гісторыі беларускай літаратурнай мовы новага перыяду, лексікалагічнаму апісанню і лексікалагічнай распрацоўцы слоўнікавага складу старажытнай беларускай мовы, даследаванню структуры і стылістыкі тэкстаў скарынаўскіх выданняў.

У манаграфіі «Прыслоўе ў гісторыі рускай мовы: Генезіс і функцыяніраванне асноўных марфалагічных тыпаў вытворных прыслоўяў» (1978), дапаможніках для студэнтаў «Гістарычная граматыка рускай мовы» (1986) і іншых у супастаўляльна-параўнальным плане ўводзяцца ў навуковы ўжытак русістыкі факты старажытнай і сучаснай беларускай мовы. Шэраг яе артыкулаў пра дзеяслоўнае трыванне, метралагічную, вайсковую і грамадска-палітычную лексіку, развіццё прыслоўяў старажытных пісьмовых помнікаў і мову першадрукаў Ф. Скарыны адзначаны медалём Ф. Скарыны (1990). А. І. Яновіч — сааўтар акадэмічных выданняў «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (т. 2, 1968), «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» (1970), «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі» (1970), «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» (вып. 10, 1990).

*Тв.:* Назіранні над катэгорыяй трывання ў гісторыі беларускай мовы: (Па матэрыялах помнікаў пісьменнасці XV—XVII стст.) // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. 1960. Вып. 7; Эвалюцыя мовы беларускіх друкаваных выданняў новага перыяду // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1967. № 3; Старажытная беларуская метралогія: Назвы мер плошчы, вагі і грошай (з А. К. Юрэвіч) // Беларускае і славянскае мовазнаўства: Да 75-годдзя акад. АН БССР К. К. Крапівы. Мн., 1972; Старажытнаруская традыцыі царкоўнага красамоўства ў творчасці Ф. Скарыны // Весн. БДУ. Сер. 4. 1988. № 3; Прадмовы Ф. Скарыны і пытанні стылістыкі тэксту // Тамсама. 1990. № 3; Структура текстов скорининских предисловий виленского цикла // Скорина и Вильнюс. Вильнюс. 1991; Асаблівасці структуры тэксту малых форм беларускага фальклору // Шануючы спадчыну Я. Карскага... Гродна, 1992. *М. Г. Булахаў.*

## ЯЎНЕВІЧ МІХАІЛ СТАНІСЛАВАВІЧ

Беларускі мовазнавец М. С. Яўневіч нарадзіўся 25 сакавіка 1922 г. ў в. Кліны Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. У 1945 г. скончыў Магілёўскі настаўніцкі інстытут, у 1947— Магілёўскі педінстытут. Доктар філалагічных навук (1982), прафесар (1984). Заслужаны настаўнік БССР (1972). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1990 г. за стварэнне падручнікаў па беларускай мове для 6—9 класаў (1963—89). Настаўнічаў. З 1952 г.— аспірант, выкладчык, дацэнт кафедры беларускай мовы Мінскага



педінстытута, у 1982—93 гг. загадчык кафедры беларускага мовазнаўства.

М. С. Яўневіч — аўтар больш як 50 навуковых прац, пераважна па сінтаксісе сучаснай беларускай літаратурнай мовы, па праблемах сінтаксічнай сінанімікі. У яго манаграфіі «Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове» (1977) упершыню на багатым фактычным матэрыяле (прааналізавана больш за 15 тыс. моўных фактаў) даследавана сістэма сінанімічных сродкаў выражэння прасторавых адносін. Ён выявіў прыназоўнікава-склонавыя спалучэнні, звязаныя сінанімічнай сувяззю, зрабіў іх структурна-семантычны аналіз, паказаў агульнасць іх значэнняў і адрозненне сэнсавымі адценнямі або стылістычнай афарбоўкай, ахарактарызаваў асаблівасці ўжывання і прадуктыўнасць сінанімічных канструкцый, тэндэнцыю іх развіцця, адносіны да літаратурнай нормы.

Для арганізацыі самастойнай вучобы студэнтаў філалагічных факультэтаў педінстытутаў М. С. Яўневіч (разам з П. У. Сцяцко) напісаў дапаможнік «Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы» (1969; 2 выд. 1980; 3 выд. 1987). У тэарэтычнай частцы дапаможніка на сучасным навуковым узроўні выкладзены найбольш складаныя пытанні сінтаксісу, прапанаваны бібліяграфія і пытанні для самаправеркі, а ў практычнай — практыкаванні і творчыя заданні. М. С. Яўневіч — сааўтар шэрага іншых вучэбных дапаможнікаў і праграм для студэнтаў педінстытутаў: «Сучасная беларуская мова: Кантрольныя работы з метадычнымі заўвагамі і парадамі» (1960; 2 выд. 1965), «Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія» (1975; 2 выд. 1980), «Сучасная беларуская мова: Кантрольныя працы» (1977; 2 выд. 1985), «Курсавыя працы па беларускай мове» (1990), «Беларуская мова» (1991) і іншых.

Значны ўклад вучонага ў тэорыю і практыку вывучэння беларускай мовы ў сярэдняй школе. М. С. Яўневіч — аўтар (разам з У. К. Андрэенкам) 3 школьных падручнікаў: «Беларуская мова» для 6—7 класаў школ з рускай мовай навучання (1963—92), «Беларуская мова» для 6—7 класаў школ з беларускай мовай навучання (1971—92), «Беларуская мова» для 8—9-га класаў (1964—93).

Як член часовых камісій Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў БССР у 1989—90 гг. удзельнічаў у падрыхтоўцы закона БССР «Аб мовах у Беларускай ССР» (зацверджаны 26.1.1990 г.) і «Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР» (18.9.1990), у працы Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні беларускага правапісу (1993).

*Тв.:* Некаторыя паралелі ва ўжыванні прыназоўнікавых канструкцый у беларускай і рускай мовах // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. 1959. Вып. 6; Суадносныя прыназоўнікавыя канструкцыі і асаблівасці іх ужывання ў беларускай і рускай мовах // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1960. № 4; З лексікі вёскі Кліны // Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Мн., 1960; Ужыванне прыназоўніка *па* ў сучаснай беларускай літаратурнай мове // Лінгвістычны зборнік: Арт., паведамл., матэрыялы. Мн., 1965; Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове: (Прыназоўнікава-склонавыя канструкцыі з прасторавым значэннем). Мн., 1977.

*І. К. Германовіч.*

# ЗАКОН

## БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ
## АБ МОВАХ
## У БЕЛАРУСКАЙ ССР

*Прыняты на чатырнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР адзінаццатага склікання 26 студзеня 1990 года*

Мова ---- не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова ---- жыве народ. Кожная мова, яе літаратурная, жывая мясцовая і гістарычная разнавіднасць ---- неацэнны скарб, які належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву.

Гонар і абавязак усіх ---- шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і роскавіту, паважліва ставіцца да моў іншых народаў.

У Беларусі здаўна жывуць людзі розных нацыянальнасцей, гучаць розныя мовы. Аднак у апошнія гады сфера ўжывання мовы карэннага насельніцтва Беларусі, якое дало ёй імя і гістарычна складае асноўную частку жыхароў рэспублікі, значна звузілася, пад пагрозай апынулася само яе існаванне. Паўстала неабходнасць аховы беларускай мовы на дзяржаўна-этнічнай тэрыторыі. Такую сістэму аховы дазваляе стварыць толькі наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы Беларускай ССР.

Статус беларускай мовы як дзяржаўнай не закранае канстытуцыйных правоў грамадзян іншых нацыянальнасцей карыстацца рускай ці іншымі мовамі. Усе грамадзяне Беларускай ССР, незалежна ад нацыянальнасці і роднай мовы, карыстаюцца роўнымі правамі і маюць роўныя абавязкі перад дзяржавай.

## I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

Артыкул 1. **Мэты заканадаўства аб мовах у Беларускай ССР**

Заканадаўства Беларускай ССР аб мовах мае на мэце ўрэгуляваць адносіны ў галіне развіцця і ўжывання беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі ў дзяржаўным, сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці, ахову канстытуцыйных правоў грамадзян у гэтай сферы, выхаванне паважлівых адносін да нацыянальнай годнасці чалавека, яго культуры і мовы, далейшае ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва народаў.

Артыкул 2. **Дзяржаўная мова, іншыя мовы ў Беларускай ССР**

У адпаведнасці з Канстытуцыяй (Асноўным Законам) Беларускай ССР дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова.

Беларуская ССР забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыяніраванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Беларуская ССР забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР.

Беларуская ССР праяўляе дзяржаўны клопат аб свабодным развіцці і ўжыванні ўсіх нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі.

Рэспубліканскія і мясцовыя дзяржаўныя, партыйныя органы, прадпрыемствы, установы і грамадскія арганізацыі ствараюць грамадзянам Беларускай ССР неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі.

Закон не рэгламентуе ўжыванне моў у неафіцыйных зносінах, у зносінах членаў працоўных калектываў паміж сабой, ва Узброеных Сілах СССР, пагранічных, унутраных і чыгуначных войсках, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларускай ССР.

А р т ы к у л 3. **Права грамадзян карыстацца іх нацыянальнай мовай**

Грамадзянам Беларускай ССР гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай. Ім гарантуецца таксама права звяртацца ў дзяржаўныя, партыйныя органы, парадпрыемствы, установы і грамадскія арганізацыі на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове.

Рашэнне па сутнасці звароту афармляецца на беларускай мове. Адказ грамадзяніну даецца на беларускай мове або, па яго жаданню, у перакладзе на рускую мову.

Адмова службовай асобы прыняць і разгледзець зварот грамадзяніна на дзяржаўнай мове, мове міжнацыянальных зносін або рабочай мове дадзенай установы са спасылкай на няведанне мовы звароту цягне за сабою адказнасць згодна з дзеючым заканадаўствам.

А р т ы к у л 4. **Абавязак службовых асоб, іншых работнікаў дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый валодаць беларускай і рускай мовамі**

Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных устаноў, партыйных, савецкіх, прафсаюзных органаў, грамадскіх арганізацый і прадпрыемстваў павінны валодаць беларускай і рускай мовай у аб'ёме, неабходным для выканання службовых абавязкаў.

Органы дзяржаўнай улады і дзяржаўнага кіравання, а таксама ўстановы, прадпрыемствы і арганізацыі павінны прымаць і разглядаць дакументы, якія падаюцца грамадзянамі на беларускай або рускай мове.

А р т ы к у л 5. **Абарона моў**

Усякія прывілеі ці абмежаванне правоў асобы па моўных прыкметах недапушчальныя.

Публічная зняважа, ганьбаванне дзяржаўнай і іншай мовы, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі, пропаведзь варожасці на моўнай глебе цягнуць устаноўленую законам адказнасць.

А р т ы к у л 6. **Арганізацыя выканання Закона аб мовах у Беларускай ССР**

Арганізацыя выканання Закона аб мовах у Беларускай ССР ускладаецца на Савет Міністраў Беларускай ССР і выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

## II. МОВА ДЗЯРЖАЎНЫХ, ПАРТЫЙНЫХ ОРГАНАЎ, ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, УСТАНОЎ І ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

А р т ы к у л 7. **Мова актаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання**

Акты вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіравання Беларускай ССР прымаюцца на беларускай мове і публікуюцца на беларускай і рускай мовах.

Акты міністэрстваў і ведамстваў, мясцовых органаў дзяржаўнай ўлады і кіравання Беларускай ССР прымаюцца і публікуюцца на беларускай мове, а пры неабходнасці ---- і на нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.

Тэксты на пячатках, штампах, штэмпелях, фармулярах, афіцыйных бланках дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый у Беларускай ССР выконваюцца на беларускай мове, а пры неабходнасці ---- на беларускай і рускай або іншых мовах.

А р т ы к у л 8. **Мова справаводства і дакументацыі**

У Беларускай ССР мовай справаводства і дакументацыі, а таксама мовай узаемаадносін дзяржаўных, партыйных органаў, устаноў і грамадскіх арганізацый з'яўляецца беларуская мова.

Мовай справаводства і дакументацыі на прадпрыемствах (у тым ліку ---- саюзнага падпарадкавання) з'яўляецца беларуская мова, а пры неабходнасці ---- руская.

Артыкул 9. **Мова ўзаемаадносін рэспубліканскіх і мясцовых органаў з саюзнымі органамі і органамі іншых рэспублік**

Мовай узаемаадносін рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый з саюзнымі органамі з'яўляецца руская мова, а з органамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі іншых саюзных рэспублік ---- руская або іншая прымальная для бакоў мова.

Артыкул 10. **Мова тэхнічнай і праектнай дакументацыі**

Тэхнічная і праектная дакументацыя ў Беларускай ССР рыхтуецца на беларускай або рускай мове, а з улікам прызначэння ---- на іншай мове.

Артыкул 11. **Мова дакументаў аб статусе грамадзян Беларускай ССР**

Афіцыйныя дакументы, якія сведчаць статус грамадзяніна, ---- пашпарт, працоўная кніжка, дакументы аб адукацыі, пасведчанні аб нараджэнні, шлюбе, а таксама дакументы аб смерці асобы выконваюцца на беларускай і рускай мовах, а асобныя дакументы пры неабходнасці ---- на беларускай і іншай мове.

Артыкул 12. **Мова з'ездаў, канферэнцый і іншых форумаў**

У Беларускай ССР рабочай мовай з'ездаў, сесій, канферэнцый, пленумаў, пасяджэнняў, нарад, іншых сходаў з'яўляецца беларуская мова.

Рабочай мовай міжрэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных сходаў і форумаў, якія праводзяцца на тэрыторыі Беларускай ССР, з'яўляецца мова, вызначаная ўдзельнікамі форуму.

Удзельнікам мясцовых, рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных сходаў і форумаў гарантуецца права выбіраць мову выступленняў з забеспячэннем перакладу на рабочую мову.

Артыкул 13. **Мова дакументаў па выбарах народных дэпутатаў**

Дакументацыя па выбарах народных дэпутатаў мясцовых, рэспубліканскіх і саюзных органаў дзяржаўнай улады афармляецца на беларускай мове.

Дакументацыя па выбарах народных дэпутатаў СССР падаецца ў Цэнтральную выбарчую камісію па выбарах народных дэпутатаў СССР на рускай мове.

Выбарчыя бюлетэні друкуюцца на беларускай мове або на нацыянальнай мове большасці насельніцтва выбарчай акругі.

Артыкул 14. **Мова ў сферы абслугоўвання**

На транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання ўжываецца беларуская мова або іншая прымальная для бакоў мова.

Артыкул 15. **Мова судаводства**

У Беларускай ССР судаводства вядзецца на беларускай мове або нацыянальнай мове большасці насельніцтва дадзенай мясцовасці.

Пры разглядзе ў судах крымінальных і грамадзянскіх спраў асобам, якія прымаюць удзел у справе і не валодаюць мовай судаводства, забяспечваецца права азнаямлення з адпаведнымі матэрыяламі, удзел у судовых дзеяннях праз перакладчыка, права выступаць у судзе на роднай мове.

Следчыя і судовыя дакументы выдаюцца асобам, якія прымаюць удзел у справе, па іх патрабаванню, у перакладзе на родную мову або іншую мову, якой яны валодаюць.

Артыкул 16. **Мова вядзення спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях**

Вядзенне спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях у Беларускай ССР ажыццяўляецца на беларускай мове або нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.

Калі асоба, якая прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці, не валодае мовай, на якой вядзецца справа, яна можа выступаць на роднай мове і карыстацца дапамогай перакладчыка.

Артыкул 17. **Мова натарыяльнага справаводства**

Натарыяльнае справаводства ў дзяржаўных натарыяльных канторах і выканаўчых камітэтах гарадскіх, пасялковых і сельскіх Саветаў народных дэпутатаў вядзецца на той мове, на якой вядзецца ў дадзенай мясцовасці судаводства.

Калі асоба, якая звярнулася ў натарыяльную кантору, не ведае мовы, на якой вядзецца справаводства, тэксты дакументаў, што афармляюцца, павінны быць прадстаўлены ў перакладзе на рускую або іншую мову.

Артыкул 18. **Мова вядзення арбітражных спраў**

Вядзенне арбітражных спраў з удзелам бакоў, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларускай ССР, ажыццяўляецца на беларускай мове.

Вядзенне арбітражных спраў, у якіх удзельнічаюць бакі, што знаходзяцца на тэрыторыі іншай саюзнай рэспублікі, ажыццяўляецца на рускай мове.

Калі справы накіроўваюцца ў Дзяржаўны арбітраж СССР або ў дзяржаўны арбітраж іншай саюзнай рэспублікі, матэрыялы, афармленыя на беларускай мове, падлягаюць перакладу на рускую мову.

Артыкул 19. **Мова пракурорскага нагляду**

Акты пракурорскага нагляду ў Беларускай ССР складаюцца на беларускай мове. Адпаведна з ажыццяўленнем пракурорскага нагляду на гэтай мове вядзецца і перапіска з усімі ўстановамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі, размешчанымі на тэрыторыі Беларускай ССР.

У зносінах з Пракуратурай СССР і іншымі саюзнымі органамі, з органамі пракурорскага нагляду і іншымі ўстановамі саюзных рэспублік выкарыстоўваецца руская мова.

Артыкул 20. **Мова юрыдычнай дапамогі**

Юрыдычная дапамога грамадзянам і арганізацыям аказваецца на беларускай мове або на прымальнай для бакоў мове.

Артыкул 21. **Мова міжнародных дагавораў і пагадненняў**

Мовамі міжнародных дагавораў Беларускай ССР, а таксама пагадненняў прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый Беларускай ССР з прадпрыемствамі, установамі і грамадскімі арганізацыямі іншых дзяржаў з'яўляюцца беларуская мова і мова другога боку дагавора або пагаднення.

## III. МОВА АДУКАЦЫІ, НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ

Артыкул 22. **Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове**

Беларуская ССР гарантуе кожнаму жыхару рэспублікі неад'емнае права на выхаванне і атрыманне адукацыі на беларускай або рускай мове. Гэта права забяспечваецца сістэмай дашкольных устаноў, агульнаадукацыйных школ, прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на роднай мове маюць і грамадзяне іншых нацыянальнасцей, якія жывуць у рэспубліцы. Дзяржава стварае ўмовы для рэалізацыі гэтага права.

Кіраўнікі і іншыя супрацоўнікі сістэмы народнай адукацыі павінны валодаць мовай навучання, на якой працуе адпаведная ўстанова.

Артыкул 23. **Мова выхавання ў дзіцячых дашкольных установах**

У дзіцячых дашкольных установах, а таксама ў дзіцячых дамах у Беларускай ССР выхаванне вядзецца на беларускай мове.

У месцах кампактнага пасялення грамадзян іншых нацыянальнасцей ствараюцца дзіцячыя дашкольныя ўстановы, дзе выхаванне дзяцей вядзецца на рускай або іншай нацыянальнай мове.

У дзіцячых дашкольных установах пры неабходнасці могуць ствараціца асобныя групы, у якіх выхаванне вядзецца на іншай мове.

Артыкул 24. **Мова навучання і выхавання ў агульнаадукацыйных школах**

У Беларускай ССР вучэбная і выхаваўчая праца ў агульнаадукацыйных школах вядзецца на беларускай мове.

У месцах кампактнага пасялення грамадзян іншых нацыянальнасцей ствараюцца агульнаадукацыйныя школы або класы, у якіх вучэбная і выхаваўчая праца вядзецца на рускай або іншай нацыянальнай мове.

У агульнаадукацыйных школах пры неабходнасці могуць ствараціца класы, у якіх навучанне і выхаванне вядзецца на іншай мове.

Ва ўсіх агульнаадукацыйных школах Беларускай ССР вывучэнне беларускай і рускай моў з'яўляецца абавязковым.

Парадак вывучэння беларускай мовы вучнямі, якія часова знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, вызначаецца Міністэрствам народнай адукацыі Беларускай ССР.

Артыкул 25. **Мова навучання ў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах**

Навучанне і выхаванне ў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах у Беларускай ССР ажыццяўляецца на беларускай мове, а па некаторых спецыяльнасцях і прафесіях — на беларускай, рускай або іншай мове. Пералік гэтых спецыяльнасцей і прафесій вызначаецца Саветам Міністраў Беларускай ССР.

Ва ўсіх навучальных установах Беларускай ССР з іншай мовай навучання беларуская мова вывучаецца незалежна ад ведамаснай прыналежнасці гэтых устаноў.

Артыкул 26. **Уступныя экзамены па мове**

Абітурыенты, якія пастпаюць у вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы рэспублікі, здаюць уступны экзамен па беларускай мове, а тыя, хто не атэставаны па беларускай мове, здаюць уступны экзамен на выбар ---- па беларускай або рускай мове.

Артыкул 27. **Мова ў сферы навукі**

У Беларускай ССР вынікі навукова-даследчых прац афармляюцца на беларускай мове, а з улікам іх прызначэння ---- на рускай мове.

Выканаўцы навукова-даследчых прац могуць выбіраць мову публікацый навуковых вынікаў.

Артыкул 28. **Мова ў сферы культуры**

У Беларускай ССР мовай у сферы культуры з'яўляецца беларуская мова. Гарантуецца таксама захаванне і развіццё культуры на мовах прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць у рэспубліцы.

З мэтай шырокага азнаямлення грамадзян рэспублікі з дасягненнямі культуры народаў СССР і сусветнай культуры Беларуская ССР забяспечвае пераклад і выданне на беларускай мове мастацкай, палітычнай, навуковай, вучэбнай і іншай літаратуры, вытворчасць і паказ фільмаў і аўдыявізуальных твораў.

## IV.МОВА ІНФАРМАЦЫІ І СУВЯЗІ

Артыкул 29. **Мова сродкаў масавай інфармацыі**

У Беларускай ССР мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі з'яўляецца беларуская мова.

Мовай афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі могуць таксама быць руская мова і мовы іншых нацыянальнасцей.

Артыкул 30. **Мова работы пошты і тэлеграфа**

У межах Беларускай ССР паштова-тэлеграфная карэспандэнцыя ад грамадзян, дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў і ўстаноў, грамадскіх арганізацый прымаецца на беларускай або рускай мове.

Пошта і тэлеграф забяспечваюцца маркамі, канвертамі, паштоўкамі, бланкамі і да т.п., надпісы на якіх выконваюцца на беларускай або рускай мовах і адпавядаюць патрабаванням Сусветнай паштовай канвенцыі.

Артыкул 31. **Мова аб'яў і паведамленняў**

Тэксты афіцыйных аб'яў, паведамленняў, плакатаў, афіш, рэклам і да т. п. выконваюцца на беларускай мове. Побач з беларускім тэкстам можа быць змешчаны яго пераклад на іншую мову.

Артыкул 32. **Мова маркіроўкі тавараў**

Маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі аб карыстанні таварамі, зробленымі ў Беларускай ССР, выконваюцца на беларускай мове.

Маркіроўка тавараў на вываз за межы Беларускай ССР выконваецца на беларускай, рускай мове або на мове заказчыка.

Назвы ў таварных знаках даюцца на беларускай мове.

## V. МОВА НАЗВАЎ

Артыкул 33. **Мова назваў дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый**

Афіцыйныя назвы дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый даюцца на беларускай мове. З правага боку (або знізу) гэтыя назвы могуць давацца пры неабходнасці ў перакладзе на рускую або іншую мову.

Артыкул 34. **Мова тапонімаў і картаграфічных выданняў**

У Беларускай ССР тапонімы (назвы населеных пунктаў, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, вуліц, плошчаў, рэк і да т. п.) даюцца на беларускай мове.

Тапонімы з-за межаў Беларускай ССР даюцца на беларускай мове адпаведна традыцыі, а новыя ---- у транскрыпцыі з мовы арыгінала.

Картаграфічныя выданні, прызначаныя для карыстання ў Беларускай ССР, рыхтуюцца і друкуюцца на беларускай мове.

Артыкул 35. **Мова асабовых імён**

Беларускія асабовыя імёны і прозвішчы ўжываюцца адпаведна нацыянальнай іменаслоўнай традыцыі і законам беларускай мовы.

Асабовыя імёны і прозвішчы з іншых моў пішуцца і ўжываюцца на беларускай мове адпаведна правілам перадачы іншамоўных уласных імён.

## VI. САДЗЕЙНІЧАННЕ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАМУ РАЗВІЦЦЮ БЕЛАРУСАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Артыкул 36. **Садзейнічанне нацыянальна-культурнаму развіццю беларусаў, якія жывуць за межамі Беларускай ССР**

Беларуская ССР на аснове пагадненняў з іншымі саюзнымі рэспублікамі садзейнічае нацыянальна-культурнаму развіццю беларусаў, якія жывуць у гэтых рэспубліках.

Беларуская ССР адпаведна нормам міжнароднага права садзейнічае задавальненню нацыянальна-культурных інтарэсаў асоб беларускага паходжання, якія жывуць у замежных краінах.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
М. Дземянцей.
Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
Л. Сыраегіна.

*26 студзеня 1990 года.*
*г. Мінск*

# ПАСТАНОВА

## ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР АБ ПАРАДКУ ЎВЯДЗЕННЯ Ў ДЗЕЯННЕ ЗАКОНА БЕЛАРУСКАЙ ССР АБ МОВАХ У БЕЛАРУСКАЙ ССР

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб мовах у Беларускай ССР увесці ў дзеянне з 1 верасня 1990 года.

2. Для паступовага ўвядзення палажэнняў Закона ва ўсе сферы грамадскага жыцця ўстанавіць наступныя тэрміны:

на працягу трох гадоў з моманту ўступлення Закона ў сілу ўводзяцца ў дзеянне артыкулы 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35;

на працягу трох — пяці гадоў з моманту ўступлення Закона ў сілу ўводзяцца ў дзеянне артыкулы 4, 7, 12;

на працягу пяці гадоў з моманту ўступлення Закона ў сілу ўводзяцца ў дзеянне артыкулы 8, 10, 13, 14, 23;

на працягу дзесяці гадоў з моманту ўступлення Закона ў сілу ўводзяцца ў дзеянне артыкулы 15, 16, 17, 18, 19, 20, 22, 24, 25, 26.

**3.** Даручыць Савету Міністраў Беларускай ССР распрацаваць і да 1 верасня 1990 года прыняць «Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР».

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
М. Дземянцей.
Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
Л. Сыраегіна.

*26 студзеня 1990 года.*
*г. Мінск*

# ЗАКОН

## БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ АБ ДАПАЎНЕННІ АРТЫКУЛА 68 КАНСТЫТУЦЫІ (АСНОЎНАГА ЗАКОНА) БЕЛАРУСКАЙ ССР

У мэтах надання беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Дапоўніць артыкул 68 Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР часткамі чацвёртай, пятай і шостай наступнага зместу:

«Дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова.

Беларуская ССР забяспечвае свабоднае карыстанне рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР.

Парадак ужывання беларускай, рускай і іншых моў у Беларускай ССР вызначаецца заканадаўствам Беларускай ССР».

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
М. Дземянцей.
Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
Л. Сыраегіна.

*26 студзеня 1990 года.*
*г. Мінск*

Артыкул 17. **Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова.**

Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін.

## РАБОЧАЯ ГРУПА
## ПА ПАДРЫХТОЎЦЫ ПРАЕКТА ЗАКОНА БЕЛАРУСКАЙ ССР
## АБ МОВАХ У БЕЛАРУСКАЙ ССР

Кіраўнік групы:

ГІЛЕВІЧ Ніл Сямёнавіч ---- дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, пісьменнік.

Члены групы:

АБРАМОВІЧ Аляксандр Міхайлавіч ---- загадчык кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права БДУ імя У.І.Леніна.

БІРЫЛА Мікалай Васільевіч ---- акадэмік ---- сакратар аддзялення грамадскіх навук АН БССР.

ВАЙТОВІЧ Яўген Канстанцінавіч ---- Міністр культуры БССР.

ДЗЯМЧУК Міхаіл Іванавіч ---- дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, Міністр народнай адукацыі БССР.

КРАЎЧАНКА Пётр Кузьміч ---- сакратар Мінскага гаркома КП Беларусі.

ПАДЛУЖНЫ Аляксандр Іосіфавіч ---- дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР.

РАГОЙША Вячаслаў Пятровіч ---- дацэнт кафедры сацыялістычнай культуры Мінскай ВПШ.

САДОЎСКІ Пётр Вікенцьевіч ---- дацэнт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага.

САЧАНКА Барыс Іванавіч ---- пісьменнік.

СМІРНОЎ Юрый Пятровіч ---- дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі.

ЯЎНЕВІЧ Міхаіл Станіслававіч ---- загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага.

**НАВУКОВА-ГАЛІНОВАЯ РЭДАКЦЫЯ
НАРОДНАЙ АСВЕТЫ, ДРУКУ
І БЕЛАРУСКІХ СЛОЎНІКАЎ**

Заг. рэдакцыі кандыдат філалагічных навук І. У. Саламевіч (да 17.6.1992), Т. М. Кароткая (з 17.6.1992); навуковыя рэдактары Т. М. Бутэвіч (да 18.9.1989), Т. М. Грынько, Л. М. Малініна (да 28.2.1994), Т. А. Меляшкевіч.

**РЭДАКЦЫЯ НАВУКОВАГА І ЛІТАРАТУРНАГА КАНТРОЛЮ**

Заг. рэдакцыі С. П. Самуэль (да 11.5.1992), Т. М. Бутэвіч (з 15.5.1992); вядучы навуковы рэдактар Е. П. Фешчанка, навуковы рэдактар Н. П. Саламевіч (да 31.1.1991).

**Бібліёграфы:**

навуковыя рэдактары Т. І. Нішт, Р. Р. Блашко.

**Картограф**

вядучы навуковы рэдактар Г. Р. Шыкунова.

**Беларуская** мова: Энцыкл./Беларус. Энцыкл.; Пад
Б 43 рэд. А. Я. Міхневіча; Рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.) і інш.— Мн.: БелЭн, 1994.— 655 с.: іл.

**ISBN 5-85700-126-9.**

Энцыклапедыя ўключае звесткі пра гісторыю беларускай мовы, яе пісьмовыя і друкаваныя помнікі, яе структуру, граматычны лад, сучасны стан, айчынных і замежных даследчыкаў беларускай мовы.

Выданне прызначана для самых шырокіх колаў насельніцтва рэспублікі, найперш для школьнай і студэнцкай моладзі, а таксама для ўсіх, хто цікавіцца мовай нашага народа.

**Б $\frac{8080260000-020}{М 318(03)-94}$ 1—94** **ББК 81.2Бя2**

**Даведачнае выданне**

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

**Энцыклапедыя**

Мастак *Н. У. Кузьмянкова*

Мастацкі рэдактар *Т. В. Шабунько*

Тэхнічны рэдактар *М. І. Грыневіч*

Карэктары: *В. І. Багдановіч, І. А. Маліноўская, Г. Дз. Навіцкая, Т. Ф. Піліповіч, Т. Я. Радзевіч, Л. У. Сідарава, Л. В. Суцягіна, А. А. Федасеева*

Здадзена ў набор 26.11.92. Падпісана да друку 29.09.94. Фармат 84×108$^{1}/_{16}$. Папера афсет. Гарнітура літарат. Друк афсет. Ум. друк. арк. 68,88. Ум. фарб.-адб. 138,26. Ул.-выд. арк. 111,37. Тыраж 10 000 экз. Заказ 377.

Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 10. Рэспубліка Беларусь, 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 15а.

Мінская фабрыка каляровага друку. Рэспубліка Беларусь, 220115, г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.